І. Я. Лепешаў

# ФРАЗЕАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Ў ДВУХ ТАМАХ

ТОМ

2

М-Я

Выданне 2-ое, дапоўненае і выпраўленае

Мінк
“Беларуская Энцыклапедыя”
2008

ББК
**УДК**
**Л 48**

**Р э ц э н з е н т ы :**

*ДаніловічМ.А.,* доктар філалагічных навук, прафесар,

*Рагаўцоў В.І.*, доктар філалагічных навук, прафесар

**Лепешаў І.Я.**
Л 48 Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы. У 2 т. Т. 2. М-Я. Выданне 2-ое, дапоўн. і выпр. / І.Я.Лепешаў. – Мінск: БелЭн, 2008. – ... с.

У слоўніку даецца апісанне каля 7000 фразеалагізмаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Кожны з іх атрымлівае граматычную, стылістычную і семантычную характарыстыку. У апошнюю ўваходзяць тлумачэнне фразеалагізма, адлюстраванне мнагазначнасці, варыянтнасці, сінанімічнай і антанімічнай сувязі фразеалагізмаў. Першае выданне слоўніка выйшла ў 1993 годзе.

м

*МАГ* ● **М`АГ І ЧАРАДЗ`ЕЙ (ЧАРАЎН`ІК).** *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Кніжн. Жарт.* Чалавек, які ўсё робіць лёгка і хутка. *—Ты, Фелікс, проста маг і чарадзей! Як гэта табе ўдалося [знайсці друкара]? —Я ж казаў: дзядзька Максім мне сваяк, хоць і не блізкі.* Якімовіч. *Валодзя паехаў падлеткам, а вярнуўся шустрым гарадскім хлопцам, магам і чараўніком...* Навуменка. *– Каго гэта я сапсаваў? – Твайго вернага раба... – Раба не маю, сябра маю. Ты маг і чарадзей. Мала каму я трымаў дадзенае слова. Табе, бачыш, трымаю...* Шамякін.

*МАГА* ● **ЯК МАГ`А.** *Акал. Разм.* **1**. Вельмі хутка, імкліва (бегчы, спяшацца, уцякаць і пад.). **Сін.:** без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы*; без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі <у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсіх парах; на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант**.: як чарапаха. *—Унь дзядзька йдзе! — гукаюць дзеці. Забылі ўсё яны на свеце і як мага бягуць, смяюцца, аж іх валосікі трасуцца.* Колас. *От ужо ён [Толік] выразна чуе з-пад свае дзічкі, як на гэты бок хутара ціха гавораць і коні стукаюць капытамі па дарозе. «Конныя»,— думаў ён і як мага пабег у ельнік.* Чорны. *Маленькі нядошлы конік, прыцісну ўшы вушы і цягнучы за сабою ўчарнелы сноп, ад ударaў арапніка як мага ўцякаў у сасоннік.* Лобан.

**2**. У найвышэйшай ступені (рабіць што-н.). *«Тадорка, сынок! — пісаў бацька... —Як мага, сынок, старайся вырвацца з войска, бяжы дадому».* Крапіва. *[Генералы] не пакідалі старых намераў: як мага спустошыць краіну, зруйнаваць яе, абяссіліць.* Лынькоў.

**3**. Ужыв. у спалучэнні з вышэйшай ступенню прыслоўя для надання яму знач. найвышэйшай ступені. Наколькі магчыма (хутчэй, больш, менш, далей і пад.). *Трэба было навучыцца як мага болей пратрымацца пад вадой.* Маўр. *[Корань:] Табе трэба пакінуць Оршу. І як мага хутчэй.* Маўзон. *Куды важней было знайсці зручныя подступы да гэтага хвойнічку, каб уночы як мага бліжэй падпаўзці да агароджы.* Быкаў.

*МАГДУСІ* ● **ЯК КСЁНДЗ МАГДУСІ** *дагадзіць.* Гл. ксёндз.

*МАГІКАН* ● **АП`ОШНІ З МАГІК`АН.** *Адз. і мн. Часцей дзейн. ці дап. Кніжн.* Прадстаўнік якога-н. тыпу, што знікае. *Мы тут — «апошнія з*

*магікан»: усё яшчэ самі пячом хлеб. На лісці. Дубовым і кляновым.* Шамякін. *Не пакідала пачуццё, што ён спакваля ўсё ж адыходзіць і адыходзіць, як «апошні з магікан», а разам з ім коціцца ў нябыт цэлая эпоха.* Якавенка. *На жаль, узлескі калгас – гэта не апошні з магікан.* Шахавец.

*МАГІЛА* ● **МАГ`ІЛА В`ОЗЬМЕ** *каго. Незак. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. памрэ. **Сін.:** бог прыбраў *каго*; дух вон *з каго*; душа вон *з каго* (у 1 знач.); дух выйшаў *з каго, у каго*; перастала біцца сэрца *каго*; *— Няпраўда — згіне племя злое! — Калі ж та будзе свята тое? Хіба, як возьме нас магіла? Не наша, браце, а іх сіла!..* Колас. *Хацеў бы я ў памяці жыць і тады, калі мяне возьме магіла.* Бялевіч. **МАГІЛА ЗАБРАЛА** *каго. Зак. Старому на свеце і жыццё не міла, крахтаў, пакуль яго забрала магіла.* Дунін-Марцінкевіч.

**ЯК МАГ`ІЛА** маўчыць, маўклівы. *Акал. Разм.* Надзейна. **Сін**.: як вады ў рот набраўшы; як рыба; як сцяна. *—От што,— сказаў.. [Наўмыснік]. —Я ведаю. Ёсць чалавек, які бачыў, ён маўчыць як магіла. Але можа загаварыць.* Чорны.

*МАГІЛЕ* ● **АДНОЙ НАГОЙ СТАЯЦЬ У МАГІЛЕ.** Гл. стаяць.

*МАГІЛЁЎСКАЙ* ● **У МАГІЛЁЎСКАЙ ГУБЕРНІ.** Гл. губерні.

*МАГІЛЁЎСКУЮ* ● **АДПРАЎЛЯЦЬ У МАГІЛЁЎСКУЮ ГУБЕРНЮ** *каго.* Гл. адпраўляць.

**У МАГІЛЁЎСКУЮ ГУБЕРНЮ.** Гл. губерню.

*МАГІЛУ* ● **ГЛЯДЗЕЦЬ У МАГІЛУ.** Гл. глядзець.

**ГНАЦЬ У МАГІЛУ** *каго.* Гл. гнаць.

**ЗАБІВАЦЬ АСІНАВЫ КОЛ У МАГІЛУ** *каго, чаго.* Гл. забіваць.

**ЗВОДЗІЦЬ У МАГІЛУ** *каго.* Гл. зводзіць.

**ЗНАЙСЦІ САБЕ МАГІЛУ** *дзе.* Гл. знайсці.

**КАПАЦЬ МАГІЛУ** *каму, чаму.* Гл. капаць.

**ЛАЖЫЦЦА Ў МАГІЛУ.** Гл. лажыцца.

**ПАЙСЦІ Ў МАГІЛУ.** Гл. пайсці.

**ПАНЕСЦІ <З САБОЙ> У МАГІЛУ** *што.* Гл. панесці.

*МАГІЛЫ* ● **ДА МАГ`ІЛЫ.** *Акал. Разм.* Да самай смерці, да канца жыцця (помніць, кахаць, не забываць і пад.). **Сін**.: да апошняга дыхання; да веку; да канца дзён; да скону дзён. **Ант**.: ад калыскі. *Браце мілы! Да магілы не забуду — памажы!* Колас. *Цябе я, сябар, да магілы ніколі не пакіну.* Крапіва. *—Такое не забываецца, такое доўга помніцца будзе. Да магілы,— разважліва прадаўжае Жаўтых.* Быкаў.

**НА КРАІ МАГІЛЫ.** Гл. краі.

**УСТАЦЬ З МАГІЛЫ.** Гл. устаць.

*МАГНІТАМ* ● **ЯК МАГН`ІТАМ** цягнуць (пацягнуць). *Акал. Разм.* Неадольна, вельмі моцна. *Непадалёку на тратуар падала святло з*

*вялікіх акон другога рэстарана — ужо не трэцяга, а першага разраду. Як магнітам пацягнула туды [Сідарчука].* Пестрак. *Кожны вечар цягнула яго да пуні як магнітам.* Місько.

*МАГОГ* • **ГОГ І МАГОГ**. Гл. гог.

*МАГУ* • **ПРАЗ НЕ МАГ`У.** *Акал. Разм.* Насуперак свайму жаданню, хаценню (рабіць што-н.). **Сін.:** цераз не хачу. *Даўлюся я капустай, праз не магу, ды ем.* Законнікаў. *Адно ведаю: хоць праз не магу, а з'езджу ў наш родны гарадок, зноў пакладу чырвоныя ружы на брацкую магілу партызан і салдат.* Місько.

*МАГЧЫ* • **НЕ МАГЧ`Ы ЗНАЙСЦ`І <САБ`Е> М`ЕСЦА.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць у стане крайняга хвалявання, трывогі, неспакою. **Сін**.: выходзіць з сябе; лезці на сцяну; не знаходзіць <сабе> месца; не помніць сябе *<ад чаго>. Цітку нічога не асталося рабіць, як вярнуцца назад. Пасля гэтай няўдачы ён не мог знайсці сабе месца.* Лобан. *[Сотнікаў] сунуў пісталет у кабуру, замкнуў усё ў камод і не мог знайсці сабе месца, пакуль не прыйшла маці.* Быкаў. *Цябе от пабачыла, месца знайсці не магла!.. «А можа — параіць што?!» Хоць знала сама, якая твая парада будзе!..* Мележ.

*МАЕ* • **ВОЧЫ Б МАЕ НЕ БАЧЫЛІ** *каго, што.* Гл. вочы.

**ВОЧЫ Б МАЕ НЕ ГЛЯДЗЕЛІ** *на каго, на што.* Гл. вочы.

**КАБ ВОЧЫ МАЕ НЕ БАЧЫЛІ** *каго.* Гл. вочы.

**ЧОРТ МАЕ** *чаго.* Гл. чорт.

**ЯК М`АЕ Б`ЫЦЬ.** *Разм.* **1**. *Акал.* Належным чынам; так, як і трэба (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін.:** на поўную катушку (у 1 знач.); па ўсіх правілах; чын па чыну; чын чынаром; чын чынам; чэсць па чэсці; як дунай (у 2 знач.); як належыць; як след. *Недалёчка было Першае мая. Не было ўжо часу падрыхтавацца да яго як мае быць.* Гарэцкі. *Прыйшоўшы ў хату, павячэралі як мае быць.* Дубоўка. *Дах крыты гонтам як мае быць, па-гаспадарску.* Куляшоў.

**2**. *Азн.* Сапраўдны, добры. **Сін**.: з галавы да ног (у 2 знач.); да мозгу касцей (у 3 знач.); ні даць ні ўзяць (у 1 знач.); чыстай вады; як ёсць (у 2 знач.); што ні <на> ёсць (у 1 знач.). *Вось ён [Суёпка] захацеў і будзе мець... як вам здаецца, што? Каня! Як мае быць каня — гаспадарскага каня.* Ядвігін Ш. *Ад бацькі сын пабраў усё — і вушы, й розум, як у таты,— кругом як мае быць — Асёл, але чаму ён паласаты?* Крапіва.

*МАЕШ* • **ВОСЬ ТАБЕ <І> МАЕШ!** Гл. вось.

*МАЁ* • **`Ё-МА`Ё**. *Выкл. Прaст.* Воклічзздзіўлення, захаплення, прыкрасці і пад. **Сін.**: авохці мне; ёлкі зялёныя, ёлкі-маталкі, ёлкі-палкі, фу ты <ну-ты>; халера ясная; цьфу ты <чорт>; чорт бы яго ўзяў,

чорт вазьмі; чорт ведае што такое. – *Кажуць, і вы прадаеце [гараж]?.. – Прыходзіцца. – Чаго ж гэта? – Каб заплаціць штраф. – І вялікі штраф? – Па максімуму. Дзвесце мінімальных зарплат. – Ё-маё! І будзеце плаціць? – А што ж рабіць? Апішуць маёмасць.* Быкаў. *А можа, падчапіў якую дрэнную хваробу? Ё-маё, калі ўсё наладзіцца днямі, схаджу да эскулупаў.* Казлоў. *Разумна, ё-маё, усё абставіў: гісторыя, музыка і асабістая зацікаўленасць.* «Полымя».

**ЗА МА`Ё-МА`Ё.** *Праст.* **1**. *Акал.* Вельмі добра (жыць, рабіць што-н.). **Сін**.: будзь-будзь (у 1 знач.); будзь здароў (у 1 знач.); дай бог (у 1 знач.); дай бог кожнаму (у 2 знач.); дзякуй богу (у 1 знач.); за маліну (у 2 знач.); з бляскам (у 1 знач.); кум каралю <і сват міністру> (у 3 знач.); люба-дарага; на дзіва (у 2 знач.); на поўнае вока; на пяць з плюсам; на славу (у 1 знач.); на ўсе сто (у 2 знач.); на яць (у 1 знач.); разлюлі-маліна (у 2 знач.); слава богу (у 1 знач.); хвала богу (у 1 знач.); хоць куды (у 2 знач.); што трэба (у 1 знач.); як не трэба лепш. —*А жывуць заможна? —Усялякіх ёсць. Адзін за маё-маё жыве, а другі...* Мурашка. *Уга, брат... Паляўнічаму за маё-маё пражывіцца можна.* «Полымя».

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Вельмі добры. **Сін**.: адным словам; без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); будзь-будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); кругом сто дваццаць; на славу (у 3 знач.); на ўсе рукі; на ўсе сто (у 3 знач.); на яць (у 2 знач.); па крайняй меры (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога; першай гільдыі (у 1 знач.); першай рукі (у 1 знач.); першы клас; першы сорт; разлюлі-маліна (у 1 знач.); рэдкай рукі; слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.); як яечка. *У горадзе не тое, што ў нас... Калі сход пачнуць, дык сход за маё-маё, а не зборышча, не брахалка. Ідзе парадак: даклады, спрэчкі... актыўнасць!* Калюга.

**МА`Ё (МА`Я) БЯР`Э (УЗЯЛ`О, В`ОЗЬМЕ).** *У знач. асаб. ск. Разм.* Я перамагаю; выходзіць што-н. па-мойму. Выказванне прызнання сваёй перамогі. *Калі на другога* [*брата*] *няшчасце накатвалася, першы ад радасці ў скокі пускаўся: маё бярэ!* Правасуд. *Давай на заклад, што маё возьме.* Янкоўскі. *Пачакай, возьме маё, я з табой расквітаюся!..* Шамякін. *Жанчына выслізнула ў сенцы, гаспадар, прыслухоўваючыся, выструніўся і, пачуўшы металічнае звяканне, – напэўна, гаспадыня бразнула ключамі, – задаволена кракатануў: – Мая ўзяла...* Праўдзін.

**МАЁ ШАНАВАННЕ** <*каму*>. Гл. шанаванне.

**ПАМЯНЕШ МАЁ СЛОВА.** Гл. памянеш.

*МАЁЙ* ● **АД МАЁЙ ГАЛАВЫ.** Гл. галавы.

*МАЗАЛЁМ* ● **СВА`ІМ (УЛ`АСНЫМ) МАЗАЛ`ЁМ.** *Акал. Разм.* Непасрэднай цяжкай працай (набываць, нажываць, зарабляць і пад.). **Сін**.: сваім гарбом. *[Цітох:] Мала твой бацька накраў людскога? Можа, хто скажа, што ён сваім мазалём набыў?* Лобан. *[Манька] мне цішком кілбасу сухенькую... з часнаком, з перчыкам, з імбірчыкам — любата! Але гэта ўжо мая. Сваім мазалём, можна сказаць, зарабіў. Ну, цябе, начальнік, я пачастую.* Крапіва. *—І колькі каштаваў дом? —Прызнацца, не лічыў. Уласным мазалём зрабіў.* Алешка.

*МАЗАЛЯ* ● **З МАЗАЛЯ** жыць. *Акал. Разм.* Здабываючы сродкі для жыцця выключна сваёй працай. *—Колькі ў гэтага чалавека энергіі, якая працаздольнасць! — разважаў Максім. —І ўсё чалавек для нас робіць, для людзей, якія з мазаля жывуць.* Гурскі. *Мне не сорамна. Увесь свой век з мазаля жыву*. Казько.

*МАЗАНЫ* ● **АДН`ЫМ (Т`ЫМ ЖА) М`ІРАМ М`АЗАНЫ.** *Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі падобныя адзін на аднаго ў якіх-н. адносінах; адзін не лепшы за другога; з аднолькавымі недахопамі. **Сін**.: абое рабое; аднаго крою; аднаго поля ягада; адным лыкам шытыя; два боты пара; <з> аднаго балота чэрці; з аднаго цеста <спечаны>; зроблены на адзін капыл; на адзін капыл (у 1 знач.); на адзін лад; на адзін манер (у 1 знач.). **Ант**.: з іншага цеста <спечаны>; не з такога цеста спечаны. *Усе адным мірам мазаны. Урваць, ухапіць, дзе што не на месцы ляжыць.* Казько. *—Хоць ты ўжо не рабі свісткоў, нячысцік!.. —Што я — малы? — Малы — не малы, а розуму хопіць. Усе вы адным мірам мазаны.* Сяркоў. *І Нэрчыха таксама тым жа мірам мазана.* Каліна.

*МАЗАЦЬ* ● **М`АЗАЦЬ ДЗ`ЁГЦЕМ** *каго, што. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Незаслужана зневажаць, чарніць. **Сін**.: абліваць граззю *каго, што*; вешаць сабак *на каго, на што*; выліваць памыі *на каго*; выліваць бруд на галаву *каго*; закідваць граззю *каго*; кідацца граззю; кідаць каменем *у каго; кідаць цень на каго, на што* (у 1 знач.); ліць бруд *на каго*; мяшаць з граззю *каго, што*; мяшаць з зямлёй (у 3 знач.); наводзіць цень *на каго, на што*; падтоптваць пад ногі (у 2 знач.); таптаць у грязь *каго, што*. *За вочы бэсціць, дзёгцем мажа і несусвеціцу нясе, а стрэне — кампліменты кажа і доўга дзве рукі трасе.* Грахоўскі. *—І пачынае ўсё дзёгцем мазаць... Як Бародка на апошнім пленуме. Усіх разнёс. Адзін ён святы застаўся... — сказаў Палаз.* Шамякін. **АБМАЗАЦЬ (ВЫМАЗАЦЬ) ДЗЁГЦЕМ** *каго, што. Зак. [Георгій:] Сваю невінаватасць дакажу я. [Вацлаў Сова:] Я гэта ведаю, а покуль што яны расцягнуць усю*

*друкарню, кнігі, абмажуць дзёгцем чэснае імя.* Клімковіч. *[Іван:] О, яны майстры падняць вэрхал, з мухі зрабіць слана, утапіць сапраўднага вучонага ў балотнай твані, вымазаць дзёгцем, ачарніць...* Сачанка.

**МАЗАЦЬ ЧОРНАЙ ФАРБАЙ** *каго, што.* Гл. маляваць.

*МАЗГАМІ* ● **ВАРУШЫЦЬ МАЗГАМІ.** Гл. варушыць.

**КРУЦІЦЬ МАЗГАМІ.** Гл. круціць.

**РАСКІДАЦЬ МАЗГАМІ.** Гл. раскідаць.

*МАЗГІ* ● **АДПІЦЬ МАЗГІ.** Гл. адпіць.

**ЗАПУДРЫЦЬ МАЗГІ**. Гл. запудрыць.

**КАМПАСЦІРАВАЦЬ МАЗГІ** *каму.* Гл. кампасціраваць.

**КАПАННЕ НА МАЗГІ.** Гл. капанне.

**КАПАЦЬ НА МАЗГІ** *каму.* Гл. капаць.

**КРУЦІЦЬ МАЗГІ** *каму.* Гл. круціць.

**МАЗГ`І АДС`ОХЛІ (В`ЫСАХЛІ, ПАВЫСЫХ`АЛІ)** *у каго. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* **1**. Хто-н. звар'яцеў, стаў псіхічна хворы. *— Міхаль, у цябе мазгі высахлі? —прашаптала яна перасохлымі губамі. —Кабылу аддамо, калёсы, а самі з чым застанемся?* Пянкрат.

**2**. Хто-н. робіць глупства, дзейнічае неразумна. **Сін**.: дах паехаў *у каго;* дурны поп хрысціў *каго*; зрух па фазе *ў каго*; клёпкі не хапае <у галаве> *у каго*; мазгі набакір *у каго*; мазгі не на месцы *ў каго*; мякіна ў галаве *ў каго*; не ўсе дома *ў каго*; салома ў галаве *ў каго, чыёй*; шарыкі за ролікі заходзяць *у каго.* **Ант**.: галава варыць *у каго*; <ёсць> <свая> галава на плячах *у каго*; кацялок варыць *у каго*; мазгі вараць *у каго*; не галава, а дом саветаў *у каго*; светлая галава *ў каго. —Яўхім!!! — закрычаў стары люта. Сіпла, са злосцю, як на малога, накінуўся: — Здурнеў! З глузду з'ехаў! Мазгі павысыхалі!* Мележ.

**3**. Хто-н. стаў вельмі забыўчывы. *—А-а, — здагадаўся гаспадар і выскачыў з-за стала. —Вось галава! Мазгі ўжо адсохлі. Загаварыўся і забыў. Тры скрыні купіў па старой яшчэ цане.* М.Капыловіч. *[Грышка] не па міласціну прыйшоў, а па законнае. Мірошнікаў, канешне, гэта ведаў, мазгі не высахлі, як ведаў і тое, што любая залежнасць, нават мізэрная, падбівае чалавека на падхалімаж.* Рубанаў.

**МАЗГ`І В`АРАЦЬ (ВАР`ЫЛІ)** *у каго. У безас. ужыв. Праст. Адабр.* Хто-н. разумны, кемлівы, знаходлівы. **Сін**.: галава варыць *у каго*; галава не на вошы *ў каго*; <ёсць> <свая> галава на плячах *у каго*; кацялок варыць *у каго*; не галава, а дом саветаў *у каго*; светлая галава *ў каго.* **Ант**.: дурны поп хрысціў *каго*; зрух па фазе *ў каго*; клёпкі не хапае <у галаве> *у каго*; мазгі адсохлі *ў каго* (у 2 знач.); мазгі набакір *у каго*; мазгі не на месцы *ў каго*; мякіна ў галаве *ў каго*; не ўсе дома *ў каго*; салома ў галаве *ў каго, чыёй*; шарыкі за ролікі заходзяць *у каго.* [Дымаў:] *А ў яго, па-твойму, мазгі не вараць? Скажы ім, таварыш!*

*Рэзні праўду-матухну!* Кобец. *Бывала, на скачках колькі разоў пералятапі цераз галовы коней і чорт нас не браў: цэлымі аставаліся і мазгі варылі.* Кулакоўскі.

**МАЗГ`І НАБАК`ІР** *у каго. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Хто-н. прыдуркаваты, з дзівацтвам. **Сін**.: дах паехаў *у* каго; дурны поп хрысціў *каго*; зрух па фазе *ў каго*; клёпкі не хапае <у галаве> *у каго*; мазгі адсохлі *ў каго* (у 2 знач.); мазгі не на месцы *ў каго*; мякіна ў галаве *ў каго*; не ўсе дома *ў каго*; салома ў галаве *ў каго, чыёй*; шарыкі за ролікі заходзяць *у каго.* **Ант**.: галава варыць *у каго*; <ёсць> <свая> галава на плячах *у каго*; кацялок варыць *у каго*; мазгі вараць *у каго*; не галава, а дом саветаў *у каго*; светлая галава *ў каго. Спачатку і мне думалася: яны людзі. Аслеплі ад самаўлюбёнасці, дый мазгі набакір. Цяпер жа ведаю: маразм; і каб бараніць жывое, патрэбны не адны словы!* Карпаў. *Усё жуе нешта і жуе, як карова жуйку... І разумны, і адукаваны, і свету пабачыў — а мазгі набакір...* Місько.

**МАЗГ`І НЕ НА М`ЕСЦЫ** *ў каго. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Хто-н. робіць глупства, дзейнічае неразумна. **Сін**.: дах паехаў *у каго*; дурны поп хрысціў *каго*; зрух па фазе *ў каго*; клёпкі не хапае <у галаве> *у каго*, мазгі адсохлі *ў каго* (у 2 знач.); мазгі набакір *у каго*; мякіна ў галаве *ў каго*; не ўсе дома *ў каго*; салома ў галаве *ў каго, чыёй;* шарыкі за ролікі заходзяць *у каго.* **Ант**.: галава варыць *у каго*; <ёсць> <свая> галава на плячах *у каго*; кацялок варыць *у каго*; мазгі вараць *у каго*; не галава, а дом саветаў *у каго*; светлая галава *ў каго. —Садзіся, падвязу! —Разбойнік ты! Забіў Рахмільку! —Апамятайся, Лейба! У цябе мазгі не на месцы!* Бядуля.

**ПРАВЕТРЫВАЦЬ МАЗГІ.** Гл. праветрываць.
**ПРАМЫВАЦЬ МАЗГІ** *каму.* Гл. прамываць.
**ПРАЧЫШЧАЦЬ МАЗГІ** *каму.* Гл. прачышчаць.
**ПУДРЫЦЬ МАЗГІ** *каму.* Гл. пудрыць.
**СТАВІЦЬ МАЗГІ НА МЕСЦА** *каму.* Гл. ставіць.
**СУШЫЦЬ МАЗГІ.** Гл. сушыць.
**УПРАЎЛЯЦЬ МАЗГІ** *каму.* Гл. упраўляць.

*МАЗГОЎ* ● **ПРАМЫЎКА МАЗГОЎ.** Гл. прамыўка.

*МАЗ`І* ● **НА МАЗ`І.** *Вык. Праст.* Часцей ужыв. пры дзейн.-займ. *ўсё.* Блізкае да ажыццяўлення, завяршэння. Пра спрыяльнае развіццё, ход, стан чаго-н. *—Ведаеце,— адказаў ён,— не ем, не сплю, усё ад аднаго да другога бегаю, тэлефон сабе дабіваюся. Але, здаецца, усё ўжо на мазі...* Сачанка. *У мяне ўжо ўсё на мазі, хлопцы вунь і рукі памылі, цяпер твая чарга — паганяй хутчэй, каб і духу нашага тут не пачулі.* Кусянкоў. *Грышка кіўнуў галавою і ўжо ўслед сказаў, што ўсё на мазі, вуголле счахае і праз мінуту-другую можна ісці мыцца.*

Рубанаў.

*МАЗОЛІЦЬ* ● **МАЗ`ОЛЩЬ В`ОЧЫ** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці канкр. прадмета. Дакучаць, назаляць пастаяннай прысутнасцю, наяўнасцю. **Сін**.: блытацца пад нагамі *ў каго*; муляць вочы *каму*; набіваць аскому *каму* (у 1 знач.); навязнуць у зубах *каму. Паступова чужых людзей на вёсцы не стала, аднак Альяш мазоліць вочы людзям асцерагаўся.* Карпюк. *Прыстрому мазоліла вочы выпешчаная Булыгава барада.* Шынклер. *На ўвесь небакрай поле чыстае, гладкае, не памечанае барадаўкамі хутароў, што яшчэ нядаўна мазолілі вочы.* Клебановіч.

**МАЗ`ОЛІЦЬ В`УШЫ** *каму, чые. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Назаляць адной і той жа гаворкай, паўтарэннем таго ж самага. **Сін**.: аб'ядаць вушы *каму* (у 1 знач.); пратрубіць <усе> вушы каму <*пра каго, пра што, аб кім*>. *[Бурдзін:] Наш брат ім — сівалдай, маўчы, не развашай: ты бый і ёсць чорт шэры. А што да дысцыпліны — мазоляць яго вушы і розум яго глушаць, каб мы былі машыны, каб нас прыбраць у рукі і намі верхаводзіць...* Колас.

**МАЗ`ОЛІЦЬ Р`УКІ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Многа працаваць фізічна. **Сін**.: гнуць <сваю> спіну (у 1 знач.); грэць лоб; не разгінаць спіны; сем патоў выліць (у 1 знач.); сем патоў сагнаць; цягнуць лямку <*каго, чаго*>; цягнуць ярмо <*каго, якое*>. *Людзі ўпарта рукі мазоляць, кладуць сцены, кладуць столі.* Багун. *[Дзед Цыбулька:] Толькі плады працы твае даставаліся чорту лысаму: пану-дармаеду, купцу, цару-бацюшку, папу, чыноўніку, жандару, а не таму, хто рукі мазоліў.* Макаёнак.

**МАЗ`ОЛІЦЬ ЯЗ`ЫК (-І).** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць упустую, пустаслоўіць. **Сін**.: араць дарогі; біць язык аб зубы (у 2 знач.); блынды правіць; гарадзіць плот <*каму*>; званіць у <разбіты> лапаць; ліць ваду; круціць вала <за хвост> (у 2 знач.); малоць языком (у 1 знач.); малоць не падсяваючы; мянціць языком; пераліваць з пустога ў парожняе (у 2 знач.); плесці кашалі <*каму, пра каго, пра што*>; плесці кашалі з лапцямі; плесці лапці; пляскаць языком; разводзіць антымоніі; разводзіць тары-бары; тары-бары <растабары> (у 2 знач.); таўчы ваду ў ступе (у 2 знач.); тачыць лясы <*з кім*>; травіць баланду (у 1 знач.); трапаць языком; часаць язык (у 1 знач.); часаць языком. *На чалавечую шчырасць трэба адказваць шчырасцю, Фядоркаў мог і не мазоліць з ім язык амаль дзве гадзіны, мог і не прыняць іх — без зброі ж людзі, сваіх такіх хапае.* Місько. *[Бегунок:] Тое, што трэба было б зрабіць.., ты не зробіш, а таму няма часу і язык мазоліць.* Шабан. *Кінь зважаць на гэта, хай*

*мазоляць языкі, усё ж роўна не забароніш ім лаяцца.* Галавач.

*МАЗОЛЬ* ● **НАСТУПАЦЬ НА МАЗОЛЬ** *каму.* Гл. наступаць.

*МАЙ* ● **ЯК М`АЙ ЗМЯВ`АЎ** *каго, што. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. бясследна знік, перастаў існаваць ці што-н. раптоўна прапала, знікла. **Сін**.: як вадой змыла (у 2 знач.); як ветрам здзьмула (у 2 знач.); як <і> не было (у 2 знач.); як карова языком злізала *каго, што. —Сорак рублікаў, божа мой, божа! Як май змаяваў, — не ўнімалася Ганна Мікалаеўна. —Мо чужы хто прыходзіў?* Кандрусевіч. *Даўно ўжо праляцелі выраі, як напамін аб надыходзе зімы. Далёка яны. І.. [сяўцоў], буйнаватых птушак, што пачынаюць восень, як май змаяваў — зніклі.* Ермаловіч. *І праўда: няма Мітрафана [казла], як май змаяваў бедака.* Гардзей.

*МАЙГО* ● **НЕ МАЙГО НОСА ПАЛОСА.** Гл. палоса.

**НЕ МАЙГО РОЗУМУ СПРАВА.** Гл. справа.

*МАЙСТАР* ● **М`АЙСТАР ЗАПЛ`ЕЧНЫХ СПР`АЎ.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* Кат. *Мы ведаем з газет, якія прамовы гаварылі ў Нюрнбергу фашысцкія майстры заплечных спраў.* Колас. *—Якога колеру ў негра кроў?— дазнацца ў расіста я стараюся, пытаюся ў спраў заплечных майстроў...* Вярцінскі. *Гэтае «абвінавачванне» магло быць і маім прызнаннем віны. У майстроў заплечных спраў усе сродкі «хороши».* Кавыль.

*МАК* ● **ТАЎЧЫ МАК.** Гл. таўчы.

*МАКАВА* ● **З МАКАВА ЗЕРНЕ.** Гл. зерне.

**НА МАКАВА ЗЕРНЕ.** Гл. зерне.

**НІ НА МАКАВА ЗЕРНЕ** Гл. зерне.

*МАКАВАЙ* ● **МАКАВАЙ РАСІНКІ Ў РОЦЕ НЕ БЫЛО** *ў каго.* Гл. было.

*МАКАМ* ● **ДУЛЮ З МАКАМ.** Гл. дулю.

**РАССЫПАЦЦА <ДРОБНЫМ> МАКАМ** *перад кім.* Гл. рассыпацца.

**СЕСЦІ МАКАМ.** Гл. сесці.

**СЯДЗЕЦЬ МАКАМ.** Гл. сядзець.

**ХОЦЬ ТЫ МАКАМ САДЗІСЯ.** Гл. садзіся.

*МАКАР* ● **ДЗ`Е МАК`АР К`ОЗЫ ПАС`Е.** *Акал. Разм.* **1.** Вельмі далёка (папасці, трапіць і пад.). **Сін**.: за блізкі свет; за дзесятую гару; за свет; за свет вочы; куды крумкач касцей не заносіў; куды макар цялят не ганяў (у 1 знач.); к чорту на рогі; на край свету (у 1 знач.). *Спусцілі і шкуру [пад лёд], разрэзаўшы на два кавалкі,— павёў нажом Падбярэцкі ад шыі да хваста... Зняce вада ў падводкі, дзе Макар козы пасе...* Пташнікаў.

**2**. У далёкую ссылку (выслаць, загнаць і пад.). **Сін**.: куды макар цялят не ганяў (у 2 знач.). *—О, не, не, я траха смялей за цябе: я хутка запраўлю яго.. дзе Макар козы пасе,— адказаў Хлор.* Гартны.

**КУД`Ы МАК`АР ЦЯЛ`ЯТ НЕ ГАН`ЯЎ.** *Акал. Разм.* **1**. Вельмі далёка, у вельмі аддаленае або цяжкадаступнае месца (ехаць, трапіць і пад.). **Сін**.: дзе макар козы пасе (у 1 знач.); за блізкі свет; за дзесятую гару; за свет; за свет вочы; куды крумкач касцей не заносіў; к чорту на рогі; на край свету (у 1 знач.). *Гаспадар уважліва агледзеў нас траіх і пацікавіўся, як мы апынуліся ў такіх мясцінах ноччу. —Гэта ж вас занесла, між іншым, куды Макар цялят не ганяў!* Мяжэвіч. *—Будзе вам Украіна,— кідае Косця Ціток. —Загоняць — куды Макар цялят не ганяў. У якія-небудзь балоты.* Навуменка.

**2**. У далёкую ссылку (адправіць, выслаць, загнаць і пад.). **Сін**.: дзе макар козы пасе (у 2 знач.). *Такога [хулігана] мала падмятаць вуліцу на пятнаццаць сутак — куды б Макар цялят не ганяў!..* Аношкін. *Пасля вашых візітаў мяне ўмомант абкруцяць, аблытаюць павуцінай ілжы, і ўсе мы патрапім куды Макар цялят ганяў.* Якавенка.

*МАКАЎ* ● **ЯК МАКАЎ ЦВЕТ.** Гл. цвет.

*МАКНУЦЬ* ● **МАКНУЦЬ СВОЙ ХЛЕБ У ДЗВЕ СОЛІ.** *Зак. да* **МАЧАЦЬ СВОЙ ХЛЕБ У ДЗВЕ СОЛІ.**

*МАКУ* ● **РАССЫПАЦЦА ДРАБНЕЙ МАКУ** *перад кім.* Гл. рассыпацца.

*МАКУЛІНКІ* ● **ДА МАК`УЛІНКІ.** *Акал. Разм.* Абсалютна (усё; расказаць, распытаць і інш.). **Сін**.: да каліва (у 1 знач.). *І от аднаго разу трапіў [карэспандэнт] да Параскі. Пасядзеў, пагутарыў з ёй, усё да макулінкі пра сыноў распытаў...* Пальчэўскі. *А памяць Валя мела такую, што мы толькі дзіву даваліся: усё да макулінкі раскажа, дзе і што бачыла.* Якімовіч. *Любе ўсё тут здалося цікавым да макулінкі.* Грамовіч.

*МАКУЛІНКУ* ● **НА МАК`УЛІНКУ.** *Акал. Разм.* **1**. Крышачку, ледзь-ледзь. **Сін**.: на волас (у 1 знач.); на сіні пазногаць (у 1 знач.). *[Юзік] хацеў разабрацца, якое месца займае ў яго думках Шура, ці адсунула яна хоць на макулінку Зосю ў яго пачуццях.* Крапіва.

**2**. *Ужыв. у адмоўн. ск.* Ніколькі, зусім (не заснуць, не мецць і пад.). **Сін**.: на волас (у 2 знач.); на <ломаны> грош; на мезены палец; на панюх табакі (у 2 знач.); на сіні пазногаць (у 2 знач.) на шэлег (у 2 знач.); ні божа мой; ні грама; ні каліва; ні кроплі; ні на <адзін> шэлег (у 1 знач.); ні на волас; ні на грам (у 1 знач.); ні на гран; ні на грош; ні на ёту; ні на каліва; ні на кроплю; ні на макава зерне; ні на макулінку. *Паляжала, пакачалася на печы, але і на макулінку не заснула.* Міська. *Мне было добра на новай кватэры, і я хваліўся, разумеючы, што і на макулінку не хлушу.* Рубанаў.

**НІ НА МАК`УЛІНКУ.** *Акал. Разм. Ужыв. у адмоўн. ск.* Зусім, ніколькі (не перабольшваць, не маніць і пад.). **Сін**.: на волас (у 2

знач.); на <ломаны> грош; на макулінку (у 2 знач.); на мезены палец; на панюх табакі (у 2 знач.); на сіні пазногаць (у 2 знач.); на шэлег (у 2 знач.); ні божа мой; ні грама; ні каліва; ні кроплі; ні на <адзін> шэлег (у 1 знач.); ні на волас; ні на грам (у 1 знач.); ні на гран; ні на грош; ні на ёту; ні на каліва; ні на кроплю; ні на макава зерне. *Гаворачы пра яе [Зіну] з ухвалою, ніхто ні на макулінку не перабольшваў.* Рубанаў. *Юрасю было крыўдна, што дырэктпар вытурыў яго аднаго, хоць па класе ён не бегаў, не рагатаў, як іншыя, ціха глядзеў у акно і пра таго індыка, пра таго пеўня не змяніў ні на макулінку, сказаў усё, як было.* Карамазаў.

*МАЛА* ● **АД М`АЛА ДА ВЯЛ`ІКА.** *Устар. Акал.* Часцей ужыв. пры слове *ўсе. Кніжн.* Абсалютна (усе), без выключэння, незалежна ад узросту. **Сін**.: ад малога да вялікага; да аднаго; да апошняга (у 3 знач.); *усе* да душы; як адзін (у 1 знач.); як адзін чалавек. *Усе ад мала да вяліка падзей чакалі ў Петрушах.* Колас. *У Міхальцах усе ад мала да вяліка ведаюць трагічную гісторыю сорак трэцяга года...* Сабаленка.

**І Г`ОРА М`АЛА** *каму. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* **1**. Хто-н. абыякава адносіцца да чаго-н.; каго-н. зусім не хвалюе што-н., не выклікае неспакою. **Сін**.: абы дзень да вечара *каму* (у 2 знач.); адзін чорт <*каму, для каго*>; адна халера; адно ліха; і не шум баравы *каму*; ні горача ні холадна *каму ад чаго*; усё адно (у 2 знач.); усё роўна (у 4 знач.); хоць бы хны (у 3 знач.); хоць бы што (у 3 знач.); хоць воўк траву еш; хоць патоп; хоць трава не расці <*каму*>; што з гусі вада *з каго, каму*; як з гусака вада. *[Мальвіна:] Дачка, дзякуй богу, на выданні, а яму і гора мала.* В.Вольскі. *І гора яму [Задарожнаму] мала, што мы тут гінем.* Быкаў.

**2**. Для каго-н. усё лёгка, каго-н. нічога не абцяжарвае. *Дык вось ён хто, пясняр удалы: знаёмы наш, рыбак Сымон! Нібы яму і гора мала і так шырок яго разгон.* Колас. *Праплывае пад ім горад, ён сядзіць, і гора мала, толькі дзіва Федзю зноў: ані дыму тога непрыгляднага, густога, ні фабрычных каміноў.* Крапіва.

**КУЧА МАЛА!** Гл. куча.

**М`АЛА-В`ЕЛЯ.** *Абл. Акал. Праст.* **1**. Трохі. *Быў Юрка чалавек нядрэнны, адно быў толькі пустамеля: аж так і трэскаюцца сцены, як стане хлусіць мала-веля.* Купала. *Тодар знае, што кожны купец, праехаўшы шчасліва тыя кам[яні], захоча на радасці добра закусіць, выпіць і аддыхнуць мала-веля.* Родзевіч. *Прагнуў [Змышлевіч], каб хоць які мала-веля пакінуць знак, каб і па яго смерці ведалі, што жыў, нешта рабіў гэтакі чалавек...* Калюга.

**2**. *Ужыв. пры лічэбн.* Якраз столькі, колькі названа. Звычайна пра вялікую колькасць чаго-н. **Сін**.: ні больш ні менш <як> (у 1 знач.); ні

мала ні многа (у 1 знач.); як лёду. *Падахвоціўся Пётрык парадніцца з намі — дык трэба богу дзякаваць за гэта! Мала-веля сем дзесяцін у пасаг дасць! Гэта ж які кавал!* Далідовіч.

**МАЛА КАШЫ ЕЎ.** Гл. еў.

**МАЛА НЕ БУДЗЕ** *каму.* Гл. будзе.

**М`АЛА ТАГ`О (Г`ЭТАГА).** *У знач. пабочн. сл. Разм.* Не толькі гэта; апрача таго. *[Мігуцкі:] Ваш сусед сапраўды добры чалавек. Мала таго — ён выдатны чалавек, і мне яго шкада. Ён можа загінуць.* Крапіва. *Свіння з усім патомствам добрых пару гадзін пасвілася ў градках фасолі. Мала таго, гэтыя брыдкія жывёліны ўвабраліся ў агуркі...* Самуйлёнак. *Сцёпка.. адразу заўважыў гэта прагрэтае акенечка ў аконцы. Мала гэтага: ён пачуў стук у акенца.* Колас.

**М`АЛА ШТ`О.** *У безас. ужыв. Разм.* Няважна, не мае значэння. *Міхал.. апісваў шчыра, усё зазначыў, хоць ён зямлі тае не бачыў; ды мала што: ніхто ніколі не бачыў светлай райскай долі, але той рай мы так малюем, што асалоды яго чуем.* Колас. — *Курута не нашай роты. — Мала што. Нашай, не нашай, а быў.* Быкаў.

**НІ М`АЛА НІ МН`ОГА.** *Акал. Разм.* **1**. *Ужыв. перад лічэбн.* Роўна столькі, колькі названа. **Сін**.: мала-веля (у 2 знач.); ні больш ні менш <як> (у 1 знач.); як лёду. *Пры старой меліярацыі канавы ды каналы адбіралі ледзь не адну дзесятую частку зямель калгаса. Ні мала ні многа — чатырыста гектараў!* Дуброўскі. *Ходзікі і паказвалі ні многа ні мала — дзевяць.* Ракітны. *А я ў суботу от якраз і радзіўся. Ні многа ні мала — восьмы дзесятак грукне.* Парахневіч.

**2**. *Ужыв. перад наз.* Якраз той, што названы (быць, аказацца і пад.). **Сін**.: ні больш ні менш <як> (у 3 знач.). *Камандзір суседняй дывізіі са значным выглядам твару даверным шэптам паведаміў, што ў камандуючага арміі цяпер ні мала ні многа — камандуючы фронту Чарняхоўскі і прадстаўнік Стаўкі маршал Васілеўскі.* Мележ. *Перад намі ні мала ні многа — Салігорск, гарадок маладых...* Лось.

**ЦІ М`АЛА ШТО.** *Часцей дап. Разм.* Усякае, самае рознае (здараецца, бывае, гавораць і пад.). *[Рыбнікаў:] Пасварыліся... Падумаеш, важнасць вялікая! Ці мала што бывае.* Крапіва. «*А раптам Багавік у сябе? — падумаў Іван. —Ці мала што... Ён наогул у райкоме заўседы «позна заседжваецца».* Сачанка. *Дасужыя людзі гаварылі, нібыта ў адным з іх [партызанскіх атрадаў] бачылі пляменніка жонкі — Васіля Каржа. Гаварылі, ды ці мала што гавораць.* Кудравец.

*МАЛАДОСЦІ* ● **НЕ П`ЕРШАЙ МАЛАД`ОСЦІ.** *Азн.* **1**. *Функц. не зам.* Не маладых, сталага ўзросту, сярэдніх гадоў. Пра чалавека. *Начальнік заставы, загартаваны ў вайне і ўжо не першай маладосці чалавек з*

*абветраным тварам, поглядам ваеннага чалавека акінуў дзеда Талаша з галавы да ног, даўжэй запыніўшыся на воўчай скуры.* Колас. *У тыя гады.. з'явіўся нейкі невядомы нікому Сымон Ракуцька, чалавек не першай маладосці і з выгляду вельмі здаровы.* Чорны.

**2**. *Разм.* Не новы, такі, які пабыў ва ўжыванні. Пра машыны, інструменты і пад. *Лясніцтва прэміравалі невялічкім універсальным трактарам і «газікам» не першай маладосці.* Грахоўскі.

**ПА МАЛАД`ОСЦІ <ГАД`ОЎ, Г`ОД>**. *Акал. Функц. не зам.* З-за нявопытнасці і недастатковай сталасці. *Ён возьме яе за руку і скажа... Што ён скажа, «маленькая», па маладосці год, дрэнна ўяўляла сабе, але яна ведала, гэта будзе нешта такое гожае і цёплае, што бывае на зямлі раз у стагоддзі.* Караткевіч. *Не такі ўжо дрэнны гэты хлопец Анатоль. Бач, як цягаў дрэвы. А шмат гаворыць ён, напэўна, па маладосці.* Супрунчук.

*МАЛАДОСЦЬ* ● **ДРУГ`АЯ МАЛАД`ОСЦЬ.** *Мн. не ўжыв. Дзейн. і дап. Функц. не зам.* Прыліў новых сіл у пажылыя гады. **Сін**.: бабіна лета (у 4 знач.). *Няма чаго табе па суботах, нядзелях дома сядзець, нервы псаваць. Я табе вуды падару; а потым і стрэльбу набудзеш як-небудзь і зразумееш, што набыў другую маладосць.* Кацюшэнка. *Тхару, калі папраўдзе разабраць, і год было ўжо нямала, але,— што стала?— пачаў на маладзенькіх пазіраць. Другая маладосць, як бачыце, настала.* Корбан.

**П`ЕРШАЯ МАЛАД`ОСЦЬ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Самы першы поспех. *Я памятаю, як у гады першай маладосці мне заўсёды хацелася на ўсю ноч аставацца пад тымі хвоямі.* Чорны. *Планета перажывала сваю першую маладосць. На ёй яшчэ не з'явіліся палярныя снегавыя шапкі, паўсюдна было аднолькава цёпла, і жыццё, нібы ловячы імгненне, расцвітала бурна, нястрымна.* Шыцік.

*МАЛАДЫ* ● **І СТАРЫ І МАЛАДЫ.** Гл. стары.

**МАЛАД`Ы ДЫ Р`АННІ.** *Часцей у знач. вык. Разм. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не па гадах вопытны, спрытны, выкрутлівы. **Сін**.: з маладых ды ранні. *Гарасім Пятровіч разгадаў тонкую хітрасць Языкевіча і гнеўна пачырванеў. Гэты хлапчына малады ды ранні, пальца ў рот яму не кладзі.* Шамякін. *Ты, аказваецца, малады ды ранні! Многа на сябе бярэш!* Лазуркін.

*МАЛАДЫХ* ● **З МАЛАД`ЫХ ДЫ Р`АННІ.** *Часцей у знач. вык. Разм. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не па гадах вопытны, спрытны, выкрутлівы. **Сін**.: малады ды ранні. *Чаму не, зусім нядрэнна у такім доме жыць дарэмна. Ах і праўнук! Малайчына! З маладых, відаць, ды ранні.* Крапіва. *Ты ўжо ўмееш пісаць. Нешта ты з маладых ды ранні.* Сабаленка.

*МАЛАКА* ● **ТОЛЬКІ ПТУШЫНАГА МАЛАКА НЯМА** *ў каго, дзе.* Гл. няма.

**ЯК АД КАЗЛА МАЛАКА.** Гл. казла.

*МАЛАКО* ● **МАЛАК`О (МАЛАЧК`О) АД ШАЛ`ЁНАЙ КАР`ОВЫ (КАР`ОЎКІ).** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Размі. Іран.* Самагонка. **Сін**.: божая сляза; зладзейка з наклейкай; зялёны змей (у 1 знач.); царскія слёзы; чортава зелле; шкляны бог. *—Штосьці нездаровіцца. — Кладзіся ля печы! У маёй біклажцы малако ад шалёнай каровы — пяршак! Глынеш — да раніцы нібы рукой здыме.* Карпюк. *[Васіль] прыгнуўся да «стала», прыглядаючыся, «улавіў» бутэльку, шклянку. — Малачко ад шалёнай каровы...* Міська. *Сяргей прыхільна глядзіць на Грыбіна. Бярэ з яго рук конаўку, адпівае глыток белай, як малако, вадкасці і зараз жа з агідай выплёўвае. Малако ад шалёнай кароўкі.* Навуменка.

**<М`АТЧЫНА (М`АМЧЫНА, М`АМІНА) МАЛАК`О НА ГУБ`АХ НЕ АБС`ОХЛА (НЕ В`ЫСАХЛА, НЕ ПАВЫСЫХ`АЛА)** *у каго. У безас. знач. Разм. Неадабр.* Хто-н. малады і зусім нявопытны. **Сін**.: нос не дарос *у каго, чый. А то яна, матчына малако на губах яшчэ не абсохла, вучыць мяне ўздумала: ты, дзед, дурны, ты нічога не разумееш...* Васілевіч. *Праўда, такія смаркачы, як Яська, пра якіх старэйшыя казалі, што ў іх яшчэ мамчына малако на губах не абсохла, куды больш цікавіліся іншым.* Гіль. *Цяпер вось пагледзімо, блазнюкі, мяцежнікі. Малако маміна на губах не павысыхала, а яны — бунтаваць, светам брыдзіць!..* Мурашка. *Дурань, у цябе яшчэ малако на губах не высахла...* Чорны. *Бачыў, што робіцца? Блазнюк, малако на губах не абсохла, а глядзі ты! Нахабства колькі!* Быкаў. *Пасаромеўся б! Вучань!.. Малако на губах не абсохла!..* Шамякін.

**ПА МАЛАК`О.** *Акал. Разм.* Міма, не ў цэль (пусціць кулю, выстраліць і пад.). **Сін**.: за малаком. *—І ў «Рэйкавую», калі мы рвалі чыгунку паблізу вашае камендатуры, ты не страляў? —Біў я, біў тады, але, верце ці не верце, страляў так, каб ні ў кога не папасці. Пускаў, як кажуць, па малако...* Броўка. *Прывітаўшыся, камандарм з усмешкай спытаў: —І якія вынікі? Колькі мін паслалі па малако? — Усе накрылі цэль,— дакладваў Ванееў.* Гурскі. *Ніяк не пацэлю. Усё па малако ляціць.* Асіпенка.

**ПТУШ`ЫНАЕ МАЛАК`О**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск.* **1.** *Функц. не зам.* Птушкамлечнік (ornithogalum) – цыбулевая расліна з бязлістым сцяблом (кветкавай стрэлкай) і прыкаранёвым лісцем. *– Не бойся, маленькая, – супакойвае Настачка. – На табе птушынае малако! – Настачка нагінаецца, адрывае траўку пад назваю «птушынае малако». З сцяблінак мяккай расліны паказваецца густы, як малако, сок.* Бядуля.

**2.** *Разм. Часцей гумар.* Нешта неверагоднае, казачнае, яўна немагчымае (часцей пра ежу). *У рэстаранах гэтых, казалі, хіба толькі птушынага малака не падавалі.* Шамякін. *Сакратар [паслаў мяне] да вас. У нёго, кажэ, все е, і картопля, і, калі захочаш, птушынае малако.* Макаёнак. *Лідачка.. старалася ўсяк дагадзіць яму. Каб захацеў ён птушынага малака, то, здаецца, дастала б.* Далідовіч. *Чаго ж у нас бракаваць будзе? Птушынага малака хіба?* Козел. *Рэкорды спартсменаў адыходзяць, а звычка да птушынага малака застаецца.* «ЛіМ».

**3.** *Функц. не зам.* Вельмі смачны торт, а таксама цукеркі асобнага гатунку. *Няёмка спрачацца з прадстаўнікамі радыяцыйнай службы, бо няма ніякіх сумненняў, што яны добра ўяўляюць абстаноўку ў пацярпелых раёнах, калі іх не заманіш у забруджаныя мясціны нават «птушыным малаком» – дэфіцытам, які сапраўды выпрацоўваецца з мясцовых прадуктаў у брагінскай кулінарыі.* Крыга. *Люда знайшла на вышках у саломе скрынку з-пад «птушынага малака».* «Звязда».

*МАЛАКОМ* ● **ЗА МАЛАК`ОМ.** *Акал. Разм.* Міма, не ў цэль (пусціць кулю, выстраліць і пад.). **Сін**.: па малако. *[Зімін:] За адну галаву — пяць куль?! [Другі голас:] І ўсе — за малаком!* Губарэвіч. *Стрэліў [шэф] другі раз — міма. 1 так усе пяць куль нават не закранулі мішэнь. Усе пайшлі «за малаком».* Шкраба. *Петрык.. лянiва кладзецца на траву і паведамляе: —Зноў васьмёрку выбіў. А дзве кулі — за малаком.* Жычка.

**З МАЛАК`ОМ М`АЦІ (М`АЦЕРЫ)** <u>атрымліваць, успрымаць</u> і пад. *Акал. Разм.* З дзіцячага ўзросту, з самых ранніх гадоў. **Сін**.: ад калыскі; з матчыным малаком; з пялёнак. *Уменне павесці за сабой людзей — сапраўдны талент, і ён даецца, вобразна кажучы, з малаком маці.* «ЛіМ». *Я з малаком маці атрымаў людскую прывычку, хоць часам і нявінна, хітраваць.* Чорны. *А далей пішы на роднай мове, на той, якую ты з малаком мацеры засвоіў. Табе ж лягчэй будзе, от пабачыш.* Кулакоўскі.

**З М`АТЧЫНЫМ МАЛАК`ОМ** <u>атрымліваць, успрымаць</u> і пад. *Акал. Разм.* З дзіцячага ўзросту, з самых ранніх гадоў. **Сін**.: ад калыскі; з малаком маці, з пялёнак. *З матчыным малаком ён [Галадзед] успрымаў мудрасць старога свету: «Хто рана ўстае, таму бог дае».* Мяжэвіч.

**КРОЎ З МАЛАКОМ.** Гл. кроў.

**УСМОКТВАЦЬ З МАЛАКОМ МАЦІ** *што.* Гл. усмоктваць.

*МАЛАНКАЙ* ● **ЯК МАЛАНКАЙ СПАЛІЛА** *каго.* Гл. спаліла.

*МАЛАТАРНЯ* ● **ПУСТ`АЯ МАЛАТ`АРНЯ.** *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Разм.*

*Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Чалавек, які займаецца пустымі размовамі; балбатун, пустаслоў. **Сін**.: пусты млын. *Сіхні ты, пустая малатарня.* Янкоўскі. *[Міхаліна:] Што забаўнік, то ўжо сапраўды забаўнік. Пра яго, ці чуеце, забавы і дзеўкі, і бабы пацвердзіць могуць... [Ульяна:] І то праўда. Пустая малатарня. Толькі і клёку, што язык па-за вушшу ходзіць.* Петрашкевіч.

*МАЛАТКА* ● **З МАЛАТК`А** <u>прадаваць, пускаць</u> і пад. *Устар. Акал. Функц. не зам.* З публічнага торгу. *[Гаспадыня:] Прыйдзі ты да памяці, паглядзі навокал сябе,— даўгі зарэзалі, прададуць з малатка ўсё.* Галубок. *Карову тую завядуць на ўчастак, патрымаюць пэўны тэрмін, а потым з малатка прададуць.* Хомчанка. *Пагражалі яшчэ да дуэлі пусціць маёнтак Якубовіча з малатка.* Караткевіч. *[Мусніцкі:] Каб не заказ — банкрут! Усё б пайшло з малатка! Прапала б фабрыка!* Васілеўскі.

*МАЛАЦІЎ* ● **ЯК ЧОРТ ГАРОХ МАЛАЦІЎ** *на чым.* Гл. чорт.

*МАЛАЧКО* ● **МАЛАЧКО АД ШАЛЁНАЙ КАРОВЫ.** Гл. малако.

*МАЛАЯ* ● **БЯДА МАЛАЯ.** Гл. бяда.

**КІШЭНЯ МАЛАЯ.** Гл. кішэня.

**МАЛАЯ МЯДЗВЕДЗІЦА**. Гл. мядзведзіца.

**МАЛАЯ СОШКА.** Гл. сошка.

*МАЛЕНЬКАЙ* ● **ПА МАЛ`ЕНЬКАЙ.** *Акал. Разм.* Нямнога, невялікую порцыю (выпіць, узяць і пад.). *[Якавец:] Мяне Барыс Мікалаевіч апякуе. Часам і да мяне заходзіць, дык мы з ім па маленькай возьмем.* Крапіва.

*МАЛЕНЬКАЯ* ● **МАЛЕНЬКАЯ СОШКА.** Гл. сошка.

*МАЛІНУ* ● **ЗА МАЛ`ІНУ.** *Разм.* **1**. *Акал.* З вялікай ахвотай, са смакам (есці, з'есці што-н.). **Сін**.: аж за вушамі трашчыць; аж нос гнецца; за абедзве шчакі; на поўную губу (у 2 знач.); на поўны рот; на ўвесь рот (у 1 знач.). **Ант**.: як на плот вешаць. *Гэта ж колькі гадоў назад, дык, здаецца, за маліну з'еў бы [варэнне], а цяперака дык і прыелася.* Гіль. *Коршакі і мыш за маліну з'ядуць, таму і дзяжураць дзень пры дні над палямі, а вочы ў іх ого-го, мы і ў бінокль таго не ўбачым, што яны вунь з той вышыні.* І.Капыловіч.

**2**. *Акал.* Вельмі добра, без цяжкасці (ісці, пайсці). **Сін**.: будзь-будзь (у 1 знач.); будзь здароў (у 1 знач.); дай бог (у 1 знач.); дай бог кожнаму (у 2 знач.); дзякуй богу (у 1 знач.); за маё-маё (у 1 знач.); з бляскам (у 1 знач.); кум каралю <і сват міністру> (у 3 знач.); люба-дорага; на дзіва (у 2 знач.); на поўнае вока; на пяць з плюсам; на славу (у 1 знач.); на ўсе сто (у 2 знач.); на яць (у 1 знач.); разлюлі-маліна (у 2 знач.); слава богу (у 1 знач.); хвала богу (у 1 знач.); хоць куды (у 2 знач.); што трэба (у 1 знач.); як не трэба лепш. *Грышка*

*прывёз тры бочкі дахаты, памяняў накрыўкі, і другім разам яны пайшлі за маліну, першым гатункам.* Рубанаў.

**3**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Вельмі добры, цудоўны. **Сін**.: адным словам[1]; без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); будзь-будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); з бляскам (у 2 знач.); кругом сто дваццаць; на славу (у 2 знач.); на ўсе рукі; на ўсе сто (у 3 знач.); на яць (у 2 знач.); па крайняй меры (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога, першай гільдыі (у 1 знач.); першай рукі (у 1 знач.); першы клас; першы сорт; разлюлі-маліна (у 1 знач.); рэдкай рукі; слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.); як яечка. *[Шурэйчык:] Ёй замуж трэба. А які я жаніх? Вось ты! Давай... Жыццё будзе за маліну. 1 на людзей з такой выйсці не пасаромеешся.* Ярашэвіч.

*МАЛІНЫ* • **ЗЖЫЎШЫ ЛЕТА ДЫ Ў МАЛІНЫ.** Гл. зжыўшы.

*МАЛІТВАМІ* • **ТВА`ІМІ (В`АШЫМІ) МАЛ`ІТВАМІ.** *Выкл. Разм.* Жартоўны адказ удзячнасці на пытанне пра здароўе, удачу, справы і пад. *Пратока пазваніў яму ў той жа вечар. – Як адчуваеш сябе? – Тваімі малітвамі.* Шамякін.

*МАЛІЦЦА* • <u>Ведаць, зразумець</u> і пад. **ЯК`ОМУ Б`ОГУ МАЛ`ІЦЦА.** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Чыім інтарэсам служыць, якой уладзе падпарадкоўвацца. *—Няўжо ты можаш дапусціць, што і я на ўтрыманні пілсудчыкаў? —Я гэтага не гаварыла. Толькі вы такі хітры, што цяжка зразумець, якому вы богу моліцеся.* Машара. *Чорт яго разбярэ, якому цяпер богу маліцца: бальшавікі, палякі, германцы. А чаго таўкуцца, каб спытаў?* Грахоўскі. *Прыходзілі сюды... і падпольшчыкі, каб ведаць, хто што думае, якому богу моліцца, на каго спадзяецца, які хто трымае арыенцір.* Сачанка. *[Змітро:] Ды за мой век пяць радзім змянілася. Не ведаеш, якому богу маліцца.* Марчук.

*МАЛІЦЬ* • **МАЛ`ІЦЬ Б`ОГА** <*за каго*>. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выказваць глыбокую ўдзячнасць каму-н. *Ты яшчэ, Зазыба, павінен маліць бога. Адным словам, каб ты быў Чубарам, то... Давялося б табе ўмыцца крывёю.* Чыгрынаў. *[Параска:] Не хачу я з ім жыць. Пайду ў падсуседзі і буду маліць бога за цябе.* Лобан.

*МАЛОГА* • **АД МАЛ`ОГА ДА ВЯЛ`ІКАГА.** Часцей ужыв. пры слове *ўсе*. *Акал. Функц. не зам.* Абсалютна (усе), без выключэння, незалежна ад узросту. **Сін**.: ад мала да вяліка; да аднаго; да апошняга (у 3 знач.); *усе* да душы; як адзін (у 1 знач.); як адзін чалавек. *Люблю [Пушкіна]*

*за яго багацце думак, за сюжэтнасць, за зразумеласць яго мовы для ўсіх — ад малога да вялікага.* Купала. *Ніхто яе [Лену] тут не чакаў, не сустракаў: час гарачы, сенакос. Усе на лузе, ад малога да вялікага...* Ваданосаў.

**БЕЗ МАЛ`ОГА.** *Акал. Разм.* Ужыв. пры словах са знач. колькасці, меры і пад. Амаль. *[Сымону Карызну] ужо без малога сорак гадоў!* Зарэцкі. *Ад Тулы да Мінскай вобласці, без малога тысячу кіламетраў, ішлі пехатой па лясах і балотах.* Праскураў. *З Мікалаем Рыгоравічам я пазнаёміўся без малога дваццаць гадоў назад.* «Настаўн. газ.»

*МАЛОДШЫ* • **МАЛОДШЫ БРАТ.** Гл. брат.

*МАЛОЦЬ* • **МАЛ`ОЦЬ НЕ ПАДСЯВ`АЮЧЫ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць глупства, пустасловіць. **Сін.**: араць дарогі; біць язык аб зубы (у 2 знач.); блынды правіць; гарадзіць плот <*каму*>; званіць у <разбіты> лапаць; круціць вала <за хвост> (у 2 знач.); ліць ваду; мазоліць язык; малоць языком (у 1 знач.); мянціць языком; пераліваць з пустога ў парожняе (у 2 знач.); плесці кашалі <*каму, пра каго, пра што*>; плесці кашалі з лапцямі; плесці лапці; пляскаць языком; разводзіць антымоніі; разводзіць тары-бары; тары-бары <растабары> (у 2 знач.); таўчы ваду ў ступе (у 2 знач.); тачыць лясы <*з кім*>; травіць баланду (у 1 знач.); трапаць языком; часаць язык (у 1 знач.); часаць языком. — *[Гэ]та ён ляпнуў бы з пастала... — Ага, меле, як той таго, не падсяваючы.* Чыгрынаў. *Ах ты, чорт аднавокі! Гэта ж трэба так малоць не падсяваючы. Прыдумаў!* Ласкоў.

**МАЛ`ОЦЬ ЯЗЫК`ОМ (ЯЗЫК`АМІ).** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Гаварыць упустую, пустасловіць. **Сін.**: араць дарогі; біць язык аб зубы (у 2 знач.); блынды правіць; гарадзіць плот <*каму*>; званіць у <разбіты> лапаць; круціць вала <за хвост> (у 2 знач.); ліць ваду; малоць не падсяваючы; мянціць языком; пераліваць з пустога ў парожняе (у 2 знач.); плесці кашалі <*каму, пра каго, пра што*>; плесці кашалі з лапцямі; плесці лапці; пляскаць языком; разводзіць антымоніі; разводзіць тары-бары; тары-бары <растабары> (у 2 знач.); таўчы ваду ў ступе (у 2 знач.); тачыць лясы <*з кім*>; травіць баланду (у 1 знач.); трапаць языком; часаць язык (у 1 знач.); часаць языком. *[Сцяпан:] Каханенькая, родненькая, не мялі языком ды вось памагай цягнуць.* Купала. *Такі ж не мелюць языком, а праўду кажуць людзі: як папаўзеш ты за жуком, дык апынешся ў брудзе.* Крапіва.

**2**. Распаўсюджваць плёткі, абгаворваць каго-н. **Сін.**: апалосквадь косці *чые, каго* (у 1 знач.); мыць языком *каго, што*; мянціць языком (у 2 знач.); перабіраць <усе> костачкі *чые, каго, каму* (у 1 знач.);

перамываць костачкі *чые, каго, каму* (у 1 знач.); часаць язык (у 2 знач.). *Колькі дзён прайшло, як паехала Люба, і па сяле.. пайшлі малоць языкамі што «Агапін байструк любошчы завёў з Аксютаваю Любай».* Мурашка. *[Боганчык] падумаў, што Наста гаворыць пра тое, пра што гавораць у вёсцы... Уся вёска тады пра яго языкамі меле, што ён такі-сякі...* Пташнікаў.

*МАЛОЧНЫЯ* ● **МАЛОЧНЫЯ РЭКІ <З КІСЕЛЬНЫМІ БЕРАГАМІ>.** Гл. рэкі.

*МАЛЫ* ● **І СТАРЫ І МАЛЫ.** Гл. стары.

*МАЛЫМ* ● **ЗА МАЛ`ЫМ** не. *Акал. Разм. Ужыв. з адмоўем пры дзеясл. ці словах са знач. колькасці, меры і пад.* Чуць (не...). *Ідзём да двара, за малым не дзве мілі, ідзём, а чаго?* Багушэвіч. *Адвяжыцеся з вашай дачкою, яна мне за малым воч не павыдзірала сёння...* Мурашка. *Я пра іх ужо наслухаўся, нават з дзедам пасварыўся. Ён мяне за малым не адлупцаваў.* Каліна.

*МАЛЯВАНЫ* ● **АСЁЛ МАЛЯВАНЫ.** Гл. асёл.

*МАЛЯВАЦЬ* ● **МАЛЯВ`АЦЬ (М`АЗАЦЬ) Ч`ОРНАЙ Ф`АРБАЙ (Ч`ОРНЫМІ Ф`АРБАМІ, У Ч`ОРНЫХ Ф`АРБАХ)** *каго, што. Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Падаваць, характарызаваць каго- ці што-н. у негатыўным плане. **Ант.**: маляваць ружовымі фарбамі *каго, што. Зараз усё часцей гучыць трывога наконт таго, што мы адназначна трактуем 30-я гады, малюем іх толькі чорнай фарбай.* Лукашук. *І тут – пайшло-паехала: ужо назаўтра ж яго выклікалі на «працяробку» і не без абурэння дакаралі: – Безумоўна, мы, партыйныя кіраўнікі, варты ўвагі як пісьменнікаў, так і мастакоў. Але ж – не чорнымі фарбамі мазаць...* Масарэнка. *Усё ж з адлегласці пражытых гадоў Нафрановіч не засяроджваецца толькі на адмоўным, не малюе ўсё, што было тады, у чорных фарбах.* Кенька.

**МАЛЯВ`АЦЬ РУЖ`ОВЫМІ Ф`АРБАМІ (У РУЖ`ОВЫХ К`ОЛЕРАХ)** *каго, што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пра дзейн. са знач. асобы. Падаваць, характарызаваць каго- ці што-н. ідэалізавана, прываблівa, лепш, чым ёсць на самай справе. **Ант.**: маляваць чорнай фарбай *каго, што. Было б не зусім праўдзіва маляваць жыццё нашых землякоў у Літве толькі ружовымі фарбамі. Крызіс у эканоміцы, беспрацоўе бацькоў, нездаровы клімат у сем'ях – усё тое, што ёсць і ў нас.* «Настаўн. газ.» *Браты ж Ліскоўскія гаварылі многа, з вялікай перакананасцю, гаварылі так, як бы толькі ў іх адчынены вочы на ўсе праявы жыцця. І ўсё малявалі яны ў ружовых колерах.* Колас.

*МАМАЕВА* ● **МАМАЕВА ПАБОІШЧА.** Гл. пабоішча.

*МАМАЙ* ● **ЯК МАМ`АЙ (БАТ`ЫЙ) ПРАЙШ`ОЎ** *дзе. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Дзе-н. поўны беспарадак, неразбярыха. **Сін**.: <сам> чорт нагу зломіць *<дзе, у чым>* (у 2 знач.). *А па хаце як Мамай прайшоў. Усё раскідана, усё не на сваім месцы, брудныя лужыны вады на падлозе.* Казько. *[Новавяскоўцы] — уроссып, на поле, на шашу. А за імі багатыроўцы... Збілі да апошняга. На полі — як Батый прайшоў.* Караткевіч.

*МАМІН* ● **МАМІН СЫНОК.** Гл. сынок.

*МАМІНА* ● **МАМІНА ДАЧКА.** Гл. дачка.

**<МАМІНА> МАЛАКО НА ГУБАХ НЕ АБСОХЛА** *ў каго.* Гл. малако.

*МАМЧЫН* ● **МАМЧЫН СЫНОК.** Гл. сынок.

*МАМЧЫНА* ● **МАМЧЫНА ДАЧКА.** Гл. дачка.

**<МАМЧЫНА> МАЛАКО НА ГУБАХ НЕ АБСОХЛА** *ў каго.* Гл. малако.

*МАНАМАХА* ● **НАДЗЕЦЬ ШАПКУ МАНАМАХА.** Гл. надзець.

**ШАПКА МАНАМАХА.** Гл. шапка.

*МАНАСТЫР* ● **ЛЕЗЦІ СА СВАІМ СТАТУТАМ У ЧУЖЫ МАНАСТЫР.** Гл. лезці.

**ПАДВОДЗІЦЬ ПАД МАНАСТЫР** *каго.* Гл. падводзіць.

*МАНАХАМ* ● **НУ ЯГ`О (Я`Е, `ІХ) К МАН`АХАМ.** *Выкл. Праст. Жарт.* Выказванне назадавальнення, прыкрасці, адмаўлення, нежадання рабіць што-н. **Сін**.: ану яго; ану яго к ліху; ану яго к чорту. А *піць каб — ну яе к манахам, гаркацінне адно, дый галаве самотна...* Лынькоў. *—Што ж, многія раскрыліся, — сказаў пасля паўзы Андрэй. —Гэта нават цікава. Такі, скажам, Рагальскі... —Ну іх, Андрэйка, к манахам! Нам тут ужо дзень-два засталося.* Брыль.

*МАНЕР* ● **НА АДЗ`ІН МАН`ЕР.** *Разм.* **1**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Вельмі падобныя, аднолькавыя. **Сін**.: абое рабое; аднаго крою; аднаго поля ягада; адным лыкам шытыя; адным мірам мазаны; два боты пара; **<з>** аднаго балота чэрці; з аднаго цеста <спечаны>; зроблены на адзін капыл; на адзін капыл (у 1 знач.); на адзін лад. *Калі прааналізаваць увесь паток перадач, то нельга не ўбачыць, што нам у большасці прапануюць апрацоўкі фальклору, усе на адзін манер.* «Звязда». *Там [у горадзе] і дождж, і навальніца, і бура — усё на адзін манер.* Гарэлікава.

**2**. *Акал.* Вельмі падобна, аднолькава (рабіць што-н.). **Сін**.: на адзін капыл (у 2 знач.). *Амаль не кожны дзень гэтая кабета наведвалася ў кантору, чакала Зосю каля дзвярэй знадворку і пачынала дзякаваць кожны раз на адзін манер.* Нёманскі.

**НА МАН`ЕР.** *Разм.* **1**. *які, чый. Акал.* Якім-н. спосабам, на які-н.

узор; так, як прынята, заведзена дзе-н. ці ў каго-н. **Сін**.: на капыл. *Стары.., трымаючы на салдацкі манер кісет пад пахаю, пачаў скручваць цыгарку.* Карпаў.

**2**. *каго, чаго, якога. У знач. прыназоўніка.* Накшталт каго, чаго, якога-н. *— З горада мы прыехалі. Шэфамі вашымі будзем. Ведаеце, што гэта такое? —Ну, што? —Гэта, значыць, на манер вашых старшых братоў будзем. Калі што трэба будзе памагчы або парадзіць — мы ў гэтым першыя.* Чорны. *Светлавалосы хлопец, апрануты ў зеленаватую куртку і сінія, на манер лыжных, штаны, зняў з пояса біклагу, адвінціў галоўку.* Навуменка. *Ды ў яго цацкі прыгажэйшыя, чым тыя сапраўдныя рэчы, на манер якіх яны зроблены, гэтыя цацкі.* Дудараў.

*МАНЕТА* ● **РАЗМ`ЕННАЯ МАН`ЕТА.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Дробязь, што-н. неістотнае. *Гэта магло сведчыць толькі аб адным — наладчык мае шырокі доступ да каштоўнасцей якія сталі для яго ўжо дробяззю, разменнай манетай.* «Звязда».

*МАНЕТАЙ*● **ПЛАЦІЦЬ ТОЙ ЖА МАНЕТАЙ** *каму.* Гл. плаціць.

*МАНЕТУ* ● **ЗА Ч`ЫСТУЮ МАН`ЕТУ** *прымаць (прыняць). Акал. Функц. не зам.* Зусім сур’ёзна, як праўду. *Сцяпан за чыстую манету прыняў усё, шпю збаяў Крот.* Гілевіч. *Ён, відаць, пажартаваў, а ты ўсё за чыстую манету прыняла.* «Вожык». *Заўсёды, хто прыме якую лухту за чыстую манету, выглядае камічна.* Блакіт. *І хто пашкадуе літаратурных пачаткоўцаў, якія, па нявопытнасці, могуць прыняць такую рэцэнзію за чыстую манету дый пачнуць раўняцца на «майстра»?* «ЛіМ».

*МАННА* ● **М`АННА З Н`ЕБА С`ЫПЛЕЦЦА (П`АДАЕ)** *каму, у каго, для каго. У безас. ужыв. Разм. Іран.* Каму-н. вельмі лёгка, само сабой дастаюцца сродкі для пражыцця, набытак і пад. **Сін**.: манна нябесная сыплецца *каму, у каго, для каго. Думаеш, у Сенніцы табе манна з неба сыпацца будзе?..* С.Александровіч. *Як я пераканаўся, шмат хто думае, што там у нас манна сыплецца з неба. Хай ведаюць: няма ў нас малочных рэкаў, няма нябеснай манны, а ёсць справядлівасць і вольная праца.* Каваленка. *А Самуйлавічу манна з неба не падае. Усё пакінуў старой жонцы, а маладая сабе раскошы патрабуе...* Аношкін.

**М`АННА НЯБ`ЕСНАЯ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Іран.* **1**. Што-н. вельмі патрэбнае, доўгачаканае. *А ў калгас пайшлі, не думаючы. Пайшлі таму, што ўсе ішлі. Або думалі, што калгас — гэта рай, дзе даюць манну нябесную...* Каваленка. *Пра нябесную манну чулі тут жыхары.* Барадулін.

**2**. Багацце падазронага паходжання. *Адкуль яму, думаем, такая манна нябесная?.. Ды нехта зірк, а на грашовых пераводах*

*акуратныя штампікі: маўляў, грошы пасылае рэдакцыя.* Кусянкоў.

**М`АННА НЯБ`ЕСНАЯ С`ЫПЛЕЦЦА (П`АДАЕ)** *каму, у каго, для каго. У безас. ужыв. Разм. Іран.* Каму-н. вельмі лёгка, само сабой дастаюцца сродкі для пражыцця, набытак і пад. **Сін**.: манна з неба сыплецца *каму, у каго, для каго. Мне было брыдка ад таго, што вы ўладкаваліся на працу праз знаёмства.., што ўся вы такая лагодненькая і шчаслівая, для якой сыплецца нябесная манна...* Асіпенка.

*МАННЫ* ● Чакаць **М`АННЫ З Н`ЕБА.** *Дап. Функц. не зам. Іран.* (Чакаць) малаверагоднай дапамогі, падтрымкі, вынікаў. **Сін**.: манны нябеснай. *Толькі дармаеды чакаюць манны з неба.* Пестрак.

Чакаць **М`АННЫ НЯБ`ЕСНАЙ.** *Дап. Функц. не зам. Іран.* (Чакаць) малаверагоднай дапамогі, падтрымкі, вынікаў. **Сін**.: манны з неба. *Макраватае збожжа ён [Павел] у сушылцы сушыць, а я чакаю манны нябеснай.* Скрыпка. *Адамаўна ўсё можа, а мы чакаем нябеснай манны, дарагі час марнуем, а за прастой нам не плацяць.* Масарэнка.

Чакаць **ЯК М`АННЫ НЯБ`ЕСНАЙ.** *Акал. Разм.* З вялікім нецярпеннем, вельмі моцна. **Сін**.: як бога. *Ураджай — справа такая: яго трэба зрабіць. Ён не прыходзіць да тых, хто яго чакае склаўшы рукі, як манны нябеснай.* Лобан. *Усе чакаюць лета як манны нябеснай.* Зуб. *Я нядаўна здалёк прыехаў. Там таксама дажджу як манны нябеснай чакаюць.* Кацюшэнка.

*МАРГНУЎ* ● **<І (Н`АВАТ) В`ОКАМ НЕ МАРГН`УЎ (НЕ МІРГН`УЎ, НЕ ЗМАРГН`УЎ, НЕ ЗМІРГН`УЎ).** *Зак. Адз. і мн.; м., ж., н.; пр. і буд. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не паказаў ніякай збянтэжанасці, боязі, нічым не выдаў сябе. *[Левановіч:] Я паклічу яго сюды, і ўсё высветліцца. [Туляга:] Э, не! Ён адапрэцца і вокам не маргне. Я зноў астануся вінаваты.* Крапіва. *З трапятаннем ішла ў школу. Як гляну Алегу ў твар? Як стрэне ён? Нічога. Як кажуць, вокам не маргнуў. Сустрэў ласкава і быў, бадай, больш, уважлівы, чым раней.* Шамякін. *Сёмка ж Фартушнік пазычыў яму грошы і нават вокам не міргнуў: ён пазычаў прапаршчыку яго ж уласныя грошы.* Чорны. *—Усё буду рабіць, што загадаеце!— горача заявіў Сайка. Дзед паглядзеў на яго. Сайка і вокам не змаргнуў.* Колас. *І ўраз, павярнуўшыся да Таццяны, Зелянюк растлумачыў ёй (і вокам не зміргнуў, шэльма!), як трэба рабіць.* Зарэцкі. *Высвятляецца, што газета трохмесячнай даўнасці, аднак Кацярына Сафронаўна і вокам не міргнула.* Ракітны.

*МАРГНУЎШЫ* ● **НЕ МАРГН`УЎШЫ (НЕ МІРГН`УЎШЫ, НЕ ЗМАРГН`УЎШЫ, НЕ ЗМІРГН`УЎШЫ) В`ОКАМ.** *Акал. Разм.* **1**. Доўга не разважаючы (рабіць, зрабіць што-н.). *Будзе табе і шыфер, будуць і вежы, і ты аб'явіш на ўвесь раён не міргнуўшы вокам, што ліквідуеш*

*у сябе апошнюю страху!..* Ракітны. *«Мне не страшны партызаны! — закрычаў фашыст паганы! — Я злаўлю іх і павешу!» — не змірґнуўшы вокам брэша.* Панчанка.

**2**. Без ніякай збянтэжанасці, сораму, хвалявання (гаварыць што-н.). *—А гэтай ночы ўсю ноч спакойна было, — хлусіў Жагула, не маргнуўшы вокам.* Крапіва. *—Як ваша рана, зажыла? Стрэліў ён у вас? —Штыхом кальнуў,— адказаў не маргнуўшы вокам Стафанковічык.* Чорны. *Затое, не маргнуўшы вокам, Валя ўпершыню размаўляла аб справах, пра якія аднакласніцы саромеліся яшчэ і думаць.* Карпюк.

*МАРДАСЦІ* • **СТРАСЦІ-МАРДАСЦІ.** Гл. страсці.

*МАРКА* • **ЯК М`АРКА ПА П`ЕКЛЕ** *хадзіць, блукаць, снойдацца* і пад. *Акал. Разм.* Безупынна і бесталкова. *[Данілка:] А што ж вы, разумныя? Хоць бы ты, Сымон? Таўпехаецеся як Марка па пекле ці як мухі ў смале, і больш нічога.* Купала. *[Кліменці:] Хаджу як Марка па пекле, без карысці. Час цягнецца, як дзень калоднікаў закутых.* Клімковіч. *Рабіць мне пакуль тое не было чаго, і я пачаў блукаць па вёсцы як Марка па пекле.* Караткевіч. *Сарвіся з месца — будзеш снойдацца потым як Марка па пекле.* Асіпенка.

*МАРКАЙ* • **ПАД М`АРКАЙ.** *Акал. Разм.* **1**. *чаго, якой.* Прыкрываючыся якой-н. выдуманай прычынай (рабіць што-н.). **Сін**.: пад выглядам (у 1 знач.). *Дарэмна ты абураешся. Гэта работа немцаў. Заўваж, усё робіцца пад маркай прымусовай мабілізацыі ў партызанскія атрады.* Шамякін. *Раённае начальства.. першым узбуйніла барсукоўскі калгас, а пад гэтай маркаю Яўхіма перавяло ў паляводы — маўляў, у яго няма належнай адукацыі...* Асіпенка. *Краіны Антанты пад маркай дапамогі рускім прапанавалі ўвесці ў Расію свае войскі.* Гурскі.

**2**. *каго.* Маскіруючыся пад каго-н., выдаючы сябе за каго-н. **Сін**.: пад выглядам (у 2 знач.). *У чэргах сваё сумленне. Адзін пад маркай інваліда праз кожныя пяць чалавек стараецца пралезці. Другія знарок дзяцей з сабой бяруць...* Карпаў. *І так лютавалі не толькі ваўкі. Пад маркаю іх нямала брыдоты рабілі і банды, бандэраўцы ці бульбаўцы.* Казько.

*МАРКІ* • **ВЫШ`ЭЙШАЙ (П`ЕРШАЙ) М`АРКІ.** *Азн. Разм. Пагард.* Самы заўзяты, надзелены самымі кепскімі якасцямі (махляр, жулік, злодзей і пад.). **Сін**.: з вялікай дарогі; першай гільдыі (у 2 знач.); першай рукі (у 2 знач.). *Ну, браце, гэта ж сам пан Маслянка!.. Між іншым, гэта — скаціна і садыст вышэйшай маркі. Усім паветам трасе, як чорт сухой грушай.* Машара. *Кавалак куцці ты! Саладуха! Трус п'яны першай маркі!* Мурашка. *Філатэліст аказаўся жулікам першай*

*маркі.* «ЛіМ».

*МАРКУ* ● **АДЗІН РАЗ МАРКУ ЖАНІЦЬ.** Гл. жаніць.

**ТРЫМАЦЬ МАРКУ.** Гл. трымаць.

**ЯК М`АРКУ ПА П`ЕКЛЕ** ганяць. *Акал. Разм.* З аднаго месца ў другое, у розных напрамках. *—У каторы раз пярэбары,— наракала маці. —Вось каб быў кавалачак свае зямліцы, то не ганялі б як Марку па пекле...* С.Александровіч. *Трэба, каб дыплом у чалавека быў. Тады яму пашана і павага. Не будуць ганяць як Марку па пекле.* Ермаловіч. *Праца ў газеце ганяла як Марку па пекле, з калгаса ў калгас, з раёна ў раён...* Сачанка.

*МАРНЫ* ● **МАРНЫ ЛЯМАНТ У ПУСТЫНІ.** Гл. лямант.

*МАРОЗ* ● **МАР`ОЗ ПА СК`УРЫ (ПА СП`ІНЕ, ПА Ц`ЕЛЕ) <ПРАБЯГ`АЕ, Х`ОДЗІЦЬ, ДЗЯР`Э; ПРАБ`ЕГ, ПРАБЯГ`АЎ, ХАДЗ`ІЎ, ПРАЙШ`ОЎ, ПРАДЗІР`АЎ>** *у каго, каго, чыёй. У безас. ужыв. Разм.* У каго-н. узнікае непрыемнае адчуванне ад раптоўнага страху, хвалявання і пад. **Сін**.: аслаблі гайкі *ў каго, чые* (у 1 знач.); валасы становяцца дыбам *у каго*; вочы на лоб лезуць *у каго* (у 2 знач.); душа ў пятках *у каго чыя*; душа ў пяткі <схавалася> *у каго*; калені дрыжаць *у каго*; кроў ледзянее *ў каго*; кроў у жылах стыне *ў каго*; мурашкі бегаюць па целе *ў каго, каго, чыім*; неба з аўчынку здаецца *каму*; паджылкі трасуцца *ў каго*; скура шэрхне *на кім, у каго*; сэрца абрываецца *ў каго, чыё*; сэрца ледзянее *ў каго*; у пяткі кальнула *каму, каго* (у 1 знач.); <усе> блохі падохлі *ў каго. «Бацька, пераменіся...» — я ўспамінаю гэтыя словы, якія сказала дзеду Івану ў сне яго нябожчыца жонка, і ў мяне — мароз па спіне ад таго бяздоння, якое за імі, гэтымі словамі, адкрываецца.* Палтаран. *І гэты цётчын голас. Ад яго мароз па спіне.* Сяркоў. *Трывожна шумяць дрэвы, а недзе ў гушчарні прарэзліва,— аж мароз па скуры, — крычыць-кугакае сава.* Цяжкі. *Ваўкі па лесе шныраюць, пад самую смалакурню, бывае, падыходзяць і выюць на розныя галасы, аж мароз па скуры дзярэ.* Сачанка. *«Палон? Ад гэтай думкі ў Пахома аж мароз прабег па целе.* Савіцкі. *Пры адной толькі думцы пабачыцца з ляснічым мароз прабягаў па скуры Васіля.* Колас. *«Гэй там, вартавыя, вазьміце гэтага бадзяку пад замок, у халодную. А там разбяромся, можа, шпіён які туляецца тут». У Пасцябунчыка мароз прайшоў па спіне.* Лынькоў. *Мароз хадзіў па Яхімавай спіне, а перад вачамі нейкая бездань адчынялася.* Колас.

*МАРОЧЫЦЬ* ● **МАРОЧЫЦЬ ГАЛАВУ** *каму.* Гл. дурыць.

*МАРСКІ* ● **МАРСКІ ВОЎК.** Гл. воўк.

*МАРСКОГА* ● **З ДНА МАРСКОГА.** Гл. дна.

*МАРУСІН* ● **ПА МАРУСІН ПАЯСОК.** Гл. паясок.

*МАРФЕЯ* ● **У АБДЫМКІ МАРФЕЯ** *ісці* і пад. Гл. абдымкі.

*МАРЦІН* • *Цікавы* **ЯК МАРЦ`ІН ДА К`АВЫ.** *Акал. Разм.* Вельмі, празмерна (цікаўны хто-н.). *Вучыўся я выдатна. Да ўсяго быў цікавы як марцін да кавы. Добра асвоіў камп'ютэр (у школе быў).* Лобач. [Даніловіч, с. 234: *як Марцін да кавы.*]

*МАРЦОВЫ* • **КОТ МАРЦОВЫ.** Гл. кот.

*МАРШ* • **КІШКІ МАРШ ІГРАЮЦЬ** *у каго.* Гл. кішкі.

*МАСА* • **КРЫТ`ЫЧНАЯ М`АСА**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Пэўная мера чаго-н., неабходная для рэзкага, імклівага пераходу чаго-н. у іншы стан. Звычайна пра грамадскія стасункі. *Мяркуючы па ўсім, у арабаў дасягнула крытычнай масы пачуццё шчымлівай крыўды, знявагі іх годнасці.* Якавенка. *Ідзе назапашванне сіл. Павінна назбірацца крытычная маса.* Скобла. *Крытычная маса ўжо дасягнула сваёй мяжы. Страх замяняецца пратэстам і супраціўленнем.* «Нар. газ.» *Падазраю, што і сёння шмат каму тое фармаванне крытычнае масы ўяўляецца немэтазгодным.* Дубавец.

*МАСАК* • **ЗРЫВАННЕ МАСАК** *з каго, з чаго.* Гл. зрыванне.

*МАСКВА* • **МАСКВ`А ВІД`АЦЬ.** *Выкл. Разм. Жарт.* Выказванне незадавальнення пры ўжыванні чаго-н. горкага або кіслага (часта суправаджаецца прыжмурам вачэй). *—Хворы Клімёнак! Прыміце свой парашочак... Не крывіцеся, вы ўжо дарослы... –Ох, Масква відаць,— крэкча Клімёнак, запіўшы парашок і выціраючы губы рукавом піжамы.* Дамашэвіч. *Толькі зрэдку, дзе-нідзе, трапляюцца горкія — аж Масква відаць! — дзічкі і ігрушы-самасейкі.* Гіль.

*МАСКВЫ* • **ДА МАСКВЫ РАКАМ НЕ ПЕРАСТАВІШ** *каго.* Гл. пераставіш.

*МАСКУ* • **ЗРЫВАЦЬ МАСКУ** *з каго.* Гл. зрываць.

**НАДЗЯВАЦЬ <НА СЯБЕ> МАСКУ.** Гл. надзяваць.

**НАСІЦЬ МАСКУ** *каго, чаго.* Гл. насіць.

**СКІДАЦЬ МАСКУ.** Гл. скідаць.

*МАСЛА* • **М`АСЛА М`АСЛЕНАЕ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Паўтарэнне аднаго і таго ж іншымі словамі; сэнсавая таўталогія. *А што такое «празрысты бляск асветленых акон», «свет.. прамяніста-светлы»? Зноў — масла масленае...* «ЛіМ». *У анатацыі, змешчанай у зборніку, знаходзім такую характарыстыку: паэзія.. «шчырая ў сваёй адкрытасці»... Толькі чаму [аўтар анатацыі] не напісаў «адкрытая ў сваёй шчырасці»? Масла масленае*. «Маладосць».

**ПАДЛІВАННЕ МАСЛА Ў АГОНЬ.** Гл. падліванне.

**ПАДЛІВАЦЬ МАСЛА Ў АГОНЬ.** Гл. падліваць.

**ЯК М`АСЛА.** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн., выраж. словам *зямля.* Урадлівая, багатая перагноем. *—Зямля ў іх — не наша! Панскую*

*забралі! Як масла — зямля!..— растлумачыў Яўхім.* Мележ. *Тут зямля як масла.* А.Жук.

*МАСЛАМ* ● **ДУЛЮ З МАСЛАМ.** Гл. дулю.

**ЯК М`АСЛАМ ПА ДУШ`Ы (ПА С`ЭРЦЫ)** *каму. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Вельмі падабаецца, вельмі прыемна. **Сін**.: да густу *каму*; да душы *каму*; да смаку *каму*; да сэрца *каму*; западаць у вока *каму* (у 2 знач.); па густу *каму*; пад густ *каму*; па душы *каму*; па нутры *каму*; па сэрцы *каму*. **Ант**.: не ў смак *каму*. *[Настуля:] Пусці, маці, паглядзець, там Батура маладзец! [Батура:] Во! Гэта мне як маслам па душы.* Крапіва. *Мабыць, словы галоўнага агранома былі яму як маслам па душы, але ён не падаў выгляду, глуха кашлянуў у кулак.* Леврановіч. *Ну, Кузьма Іванавіч... калі сказаць папросту, твае гэтыя словы мне як маслам па сэрцы...* Чарнышэвіч. *Раней такое не падабалася, а цяпер як маслам па сэрцы: значыць, зноў Каршукоў стаў Каршуковым.* Асіпенка.

*МАСЛЕ* ● <u>Ісці (пайсці)</u> **ЯК ПА М`АСЛЕ.** *Акал. Разм.* Вельмі лёгка, добра, без перашкод і ўскладненняў. **Сін**.: без сучка і <без> задзірынкі (у 1 знач.). *Ніякіх забастовак, ніякіх сутычак з параходчыкамі, ніякіх непаразуменняў з мясцовымі ўладамі. Усё ішло як па масле.* Лынькоў. *Сёння ў Капры плывём на адведкі. Як па масле ідзе параход.* Панчанка.

**ЯК СЫР У МАСЛЕ КУПАЦЦА.** Гл. купацца.

*МАСЛЕНАЕ* ● **МАСЛА МАСЛЕНАЕ.** Гл. масла.

*МАСЛЁНКУ* ● **МАСЛЁНКУ ВЕЗЦІ.** Гл. везці.

*МАСНІЧЫНЕ* ● **ХАДЗІЦЬ ПА АДНОЙ МАСНІЧЫНЕ** *ў каго.* Гл. хадзіць.

*МАСТАЦТВА* ● **МАСТ`АЦТВА ДЛЯ (ДЗ`ЕЛЯ) МАСТ`АЦТВА.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* Бескарысная справа, бескарысны занятак. *[«Дыскусіянеры» ] у захапленні забываюцца нават, за што яны гыркаюцца, і, такім чынам, выходзіць гырканне дзеля гыркання (своеасаблівае мастацтва для мастацтва).* Крапіва. *За крытыку трэба дзякаваць кожнаму, калі толькі гэтая крытыка імкнецца дапамагчы справе. Але калі гэтая крытыка ёсць своеасаблівае «мастацтва дзеля мастацтва», дык за яе дзякаваць няма чаго.* Чорны.

**ПА ЎСІХ ПРАВІЛАХ МАСТАЦТВА.** Гл. правілах.

*МАСТОК* ● **МАСТОК ПЕРАКІДВАЕЦЦА** *паміж чым, ад чаго да чаго.* Гл. мост.

**ПЕРАКІДАЦЬ МАСТОК.** Гл. перакідаць.

**ПЕРАКІДН`Ы МАСТОК (М`ОСЦІК, М`ОСТ)** *да чаго. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Сродак сувязі паміж кім, чым-н. *Аналізуючы падзеі, палкоўнік, вядома, звярнуў увагу вось на што:*

*патаемнік зроблены на скорую руку, у спешцы. Можа, для таго, каб як хутчэй збавіцца ад некаторых дакументаў, а можа, гэта доказ нейкай трывала зробленай работы і перакідны масток да новай, больш складанай дзейнасці?* Кавалёў. *Няхай прагалам памяць абміне. Я — мост перакідны, адзіны сродак, каб вечна пазнаваліся ва мне нашчадак мой і мой далёкі продак.* Паўлаў.

*МАСТОЎ* ● **НАВЯДЗЕННЕ МАСТОЎ.** Гл. навядзенне.

*МАСТЫ* ● **МАСТ`Ы СП`АЛЕНЫ** *<чаго, куды>. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Хто-н. канчаткова пазбаўлены магчымасці вярнуцца да ранейшага. **Сін**.: дарога адрэзана *каму да каго, куды. Юшкевіч адмовіўся ехаць у гэтую краіну, якая дала яму жыццё, дала яму славу. Адмовіўся, і яго пакінулі. Масты ў новы свет былі спалены.* Мікуліч. *Ён жа зычыў Машы адно добрае. І няхай не прыкідваецца — хаміў не дзеля таго, каб Маша зразумела, што масты спалены, а, наадварот, каб успаміналаі яго, ведала: ён усё яшчэ мучыцца праз яе.* Карпаў. *—Хіба ў вашых дзеяннях няма нічога крымінальнага?.. —Ого, «вы»!.. Значыць, масты спалены, і мне дарогі назад няма?* Шыцік.

**НАВОДЗІЦЬ МАСТЫ.** Гл. наводзіць.

**ПАЛІЦЬ <УСЕ> МАСТЫ <ЗА САБОЙ>.** Гл. паліць.

*МАСЦЬ* ● **ПАД М`АСЦЬ** *каму. Акал. Разм.* Адпаведна з чыім-н. жаданнямі, намерамі і пад. *Прыйшоў аднойчы панскі гончы, паліцыянт, агледзеў снасць і актам свой агляд закончыў зусім Сымону не пад масць: за волак вызначыў падатак.* Колас.

**У М`АСЦЬ** гаварыць, быць і пад. *Акал. Разм.* Даспадобы. **Сін**.: *прыйсціся* да густу; *прыйсціся* да душы; *прыйсціся* да смаку; *прыйсціся* па густу; *прыйсціся* пад густ; *прыйсціся* пад нораў; *прыйсціся* па душы; *прыйсціся* па нутры; *прыйсціся* па сэрцы. *Я старайся ўсё яму ў масць гаварыць, але ж чорт яго вытрывае, каб роўненька нітку весці...* Міська. *Шура не заўважыў, як насмешліва глядзеў на яго спадарожнік; той бачыў, як пакруглеў Шураў твар, думаў, што дырэктару быў бы якраз зяць у масць.* А.Жук.

*МАТАМ* ● **БЛАГ`ІМ М`АТАМ** крычаць. *Устар. Акал. Разм.* Вельмі гучна, ашалела. **Сін**.: з усіх жыл (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 3 знач.); на поўную сілу (у 3 знач.); на поўныя грудзі (у 2 знач.); на ўвесь голас (у 1 знач.); на ўвесь свет (у 1 знач.); на ўсе грудзі (у 2 знач.); на ўсе застаўкі (у 1 знач.); на ўсё горла; на ўсю глотку; на ўсю іванаўскую (у 1 знач.); на ўсю моц (у 3 знач.); немым голасам; не сваім голасам; што ёсць духу (у 2 знач.); што ёсць сілы (у 3 знач.); <як> іерыхонская труба (у 2 знач.); як недарэзаны; як рэзаны. *А як надарыцца часамі яму [дарэктару] спаткацца там з казамі, тады крычаў ён благім матам, тады рабіўся ён вар'ятам...* Колас. *[Гапон, крычыць благім матам:]*

*Ратуйце! Ратуйце, гэта разбой!* Гарэцкі.

*МАТАРЫ* ● **К Ч`ОРТАВАЙ М`АТАРЫ (М`АЦЕРЫ).** *Акал. Праст. Груб.* **1**. Прэч (ісці, пайсці, гнаць, выганяць і пад.). Выказванне злосці на каго, што-н., жадання пазбавіцца ад каго, чаго-н. **Сін**.: да д'ябла (у 1 знач.); да чорта (у 1 знач.); з вачэй *чыіх, каго* (у 2 знач.); з вачэй далоў (у 2 знач.); к чорту (у 1 знач.); на сухі лес. *—Выведзі яго, Хведар, к чортавай матары! — без злосці, не павышаючы голасу, загадаў камісар.* Шамякін. *[Якаў Фаміч:] Выгнаць яго к чортавай матары! Каб і духу ягонага не было на фабрыцы!* Матукоўскі. *[Караўкін:] Што вы мне сказалі? Вы паслалі мяне к чортавай мацеры. [Дабрыян:] А далей няма куды.* Крапіва.

**2**. Ушчэнт, прахам (ляцець, ісці, пускаць і пад.). **Сін**.: да д'ябла (у 2 знач.); к чорту (у 2 знач.). *[Вінцэнты:] Страшная штука робіцца. Усё к чортавай матары пойдзе... Яшчэ і хату адбяруць у цябе і самога з торбай пусцяць, калі самому не ратавацца.* Чорны. *—Я вас у барановы рог пакручу! Пусціць к чортавай матары!— крыкнуў [акалодачны], нарэшце, гарадавым.* Мурашка.

**ЛІХА МАТАРЫ** <*чыёй*>. Гл. ліха.

**ТРАСЦА ЯГО МАТАРЫ.** Гл. трасца.

*МАТАЦЬ* ● **МАТ`АЦЬ (НАМ`ОТВАЦЬ) <САБ`Е> НА В`УС** *што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Цвёрда запамінаць, улічваць на будучае. **Сін**.: завязваць вузялок; запісаць на лбе; зарубіць <сабе> на носе <*што*>. *Павел прывітаўся.. і паведаміў Рыгору: —Гэта наша бліжэйшае, так сказаць, непасрэднае начальства. Матай на вус.* Гартны. *Мы во плявузгаем абы-што, а ён ці то языка не мае, ці то на вус матае?* Чыгрынаў. *Дзед Талаш прыглядаўся да Букрэя, прыслухоўваўся да яго загадаў і каманды і ўсё гэта матаў сабе на вус.* Колас. **НАМАТАЦЬ <САБЕ> НА ВУС** *што. Зак. —Мне цікава было слухаць. І я вельмі ўдзячна вам за шчырасць... —На вус толькі наматайце: не жаніцеся без кахання! — весела сказала яна, паківаўшы яму пальцам.* А.Марціновіч.

*МАТЛЯЕЦЦА* ● **ЯЗЫК КАЛЯ ВУШЭЙ МАТЛЯЕЦЦА** *ў каго.* Гл. язык.

*МАТРОСЫ* ● **НІ Ў САЛДАТЫ НІ Ў МАТРОСЫ НІ ПАДМАЗВАЦЬ КАЛЁСЫ.** Гл. салдаты.

*МАТЧЫНА* ● **<МАТЧЫНА> МАЛАКО НА ГУБАХ НЕ АБСОХЛА** *ў каго.* Гл. малако.

*МАТЧЫНЫМ* ● **З МАТЧЫНЫМ МАЛАКОМ.** Гл. малаком.

**УСМОКТВАЦЬ З МАТЧЫНЫМ МАЛАКОМ** *што.* Гл. усмоктваць.

*МАТЫЛІЦУ* ● **ВЫГАНЯЦЬ МАТЫЛІЦУ** *з каго.* Гл. выганяць.

*МАЎЧАНКУ* ● **ГУЛЬНЯ Ў МАЎЧАНКУ**. Гл. гульня.

**ГУЛЯЦЬ У МАЎЧАНКУ**. Гл. гуляць.

**ПАГУЛЯЦЬ У МАЎЧАНКУ.** Гл. пагуляць.

*МАФУСАІЛАЎ* ● **МАФУСАІЛАЎ ВЕК**. Гл. век.

*МАХ* ● **НА ЎВ`ЕСЬ М`АХ** *бегчы, імчацца, гнаць* і пад. *Акал. Разм.* Вельмі хутка, з вялікай скорасцю. **Сін**.: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы;* без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсіх парах; на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант**.: як чарапаха. *Міхліны дні ўзварушаны былі жыццём ды разгушканы на ўвесь мах.* Баранавых. *Нядоўга думаючы, дзядзька Ігнась ускочыў на Вернага і адразу пагнаў яго на ўвесь мах.* Сіняўскі.

**У АДЗ`ІН М`АХ.** *Акал. Разм.* Адразу ж, імгненна (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін**.: у адзін міг; у <адзін> момант; у <адну> мінуту; у імгненне вока; у міг вока; у момант вока; як бач; як бачыш (у 1 знач.); як вокам зглядзець (у 1 знач.); як га; як слова сказаць; як стой. *У вач[а]х іскры маіх, а жалеза ў руках, скура гнецца ад іх, у адзін міг, у адзін мах.* Гартны. *Стараліся, жылле рвалі, а гэты праклятьі ўраган усю нашу работу спляжыў у адзін мах.* Масарэнка.

*МАХАЙ* ● **Х`ОЦЬ <ТЫ> М`АХАЛАМ МАХ`АЙ.** *Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм.* **1**. Немагчыма адбіцца, адкараскацца ад каго, ад чаго-н. дакучлівага. *Людзі дзівяцца, глядзяць, сталі божкаць і ўздыхаць, пчолка ж поўзае й нібыта, хоць ты махалам махай.* Колас. *—Гаспадзін акалодачны, не ведаем, што рабіць, хоць махалам махай на іх. —Што за махалам!.. махалам... махалам...* Мурашка. *Штрафы сыпаліся з усіх бакоў, хоць ты, бывала, махалам махай.* Місько.

**2**. *каго, чаго.* Вельмі многа. Пра людзей і неадуш. прадметы. **Сін**.: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.);

пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго чаго;* цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу; як гразі *каго, чаго*; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. Таварыстваў па ахове жывёлы тут [у ЗША] хоць махалам махай.* Лужанін. *Бацька ад радасці аж усміхнуўся: так спадабалася яму, што прымакоў будзе ў Ганны «хоць ты махалам махай».* Дайліда.

*МАХАЛАМ* ● **ХОЦЬ <ТЫ> МАХАЛАМ МАХАЙ.** Гл. махай.

*МАХАМ* ● **АДН`ЫМ М`АХАМ**. *Акал. Разм.* Вельмі хутка, адразу (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін**.: адным духам (у 2 знач.); за адзін прысест; з аднаго маху; у адзін дух (у 2 знач.). *Сімон адным махам узбег па ўсходах і, грукнуўшы дзвярыма, знік у доме.* Самуйлёнак. *Янак, кліч сюды Цімоха. Ён адным махам навядзе парадак.* Бажко. *Ніхто з нас не браўся з Грышкам дужацца — ён кожнага клаў на зямлю адным махам.* М.Капыловіч.

**АДНЫМ МАХАМ СЕМЯРЫХ ЗАБІЯХАМ.** Гл. забіяхам.

**ЗА АДН`ЫМ М`АХАМ.** *Акал. Разм.* Заадно, адначасова з чым-н. другім (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін**.: за адным заходам; за адным разам; за адным швом. *[Скіба:] Кваску б глынуць, у роце перасохла. [Рыгор:] Зараз прынясу. [Скіба:] І хлеба кусочак... За адным махам.* Крапіва. *А то някепска было б за адным махам знесці і мой домік.* Шахавец.

*МАХАЦЬ* ● **МАХ`АЦЬ (РАЗМ`АХВАЦЬ) ПАСЛ`Я Б`ОЙКІ КУЛАК`АМІ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Абурацца, апраўдвацца пасля якога-н. здарэння, калі ўжо бескарысна і позна рабіць што-н. *—Вось ідзём правяраць, хто страляў, у каго зброя ёсць. —Ага, правер. Толькі спачатку солі ім на хвост насып. Дужа ўжо храбрыя пасля бойкі кулакамі махаць!* Новікаў. *Міхаілу Ціханавічу было хоць з хаты ўцякай. Дакараў сябе, што не здолеў адбіцца ад кампаньёна. Але ж што пасля бойкі кулакамі махаць.* Сіняўскі. *[Шугачоў] быў з тых людзей, якія не размахваюць пасля бойкі кулакамі.* Шамякін. **ПАМАХАЦЬ ПАСЛЯ БОЙКІ КУЛАКАМІ.** *Зак. Прыняўшы рашэнне, лейтэнант супакоіўся, павесялеў, уявіўшы, як падпалкоўнік, даведаўшыся пра яго ўчынак, скажа: «Любіш ты пасля бойкі кулакамі памахаць». —Паківае галавой і дадасць: —У час трэба думаць.* Шыцік.

*МАХНІ-ДРАЛА* ● **ДАЦЬ МАХНІ-ДРАЛА.** *Зак. да* **ДАВАЦЬ МАХНІ-ДРАЛА.**

*МАХНУЦЬ* ● **МАХН`УЦЬ РУК`ОЙ** *на каго, на што. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Перастаць звяртаць увагу на каго, што-н., перастаць цікавіцца кім, чым-н. **Сін**.: паварочвацца спінай *да каго, да чаго*; паварочваць спіну *да каго, да чаго*; ставіць крыж *на кім, на чым, над чым.* **Ант**.: паварочвацца тварам *да каго, да чаго. Безумоўна, жыць па-макаедаўску лягчэй. Можна махнуць рукой на Галю і яе двайнят, можна памірыцца з жонкай, згадзіцца з пасадкай «хіміка» ў Белым Беразе.* Шамякін. *[Канягін:] Іншы раз так дапячэ, што махнуў бы на ўсё рукой ды на фронт. Там бы я ведаў сваю баявую задачу і ўсё.* Крапіва. *Быў у нас на заводзе ўчастак, на які ўжо ўсе рукой махнулі.* Гігевіч.

*МАХУ* ● **ДАВАЦЬ МАХУ.** Гл. даваць.

**З АДНАГ`О М`АХУ.** *Акал. Разм.* Вельмі хутка, адразу (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін**.: адным духам (у 2 знач.); адным махам; за адзін прысест; у адзін дух (у 2 знач.). *Развязаць жа з аднаго маху такое пытанне, як зямельнае, нельга, бо яно вельмі і вельмі складанае.* Колас. *А чым жа ён [Лупанок] быў вінаваты? Што хацеў прыдбаць сям'і харошы дамок ды дурную капейку ўхапіць з аднаго маху, з налёту.* Лынькоў.

*МАЦЕРЫ* ● **УСМОКТВАЦЬ З МАЛАКОМ МАЦЕРЫ** *што.* Гл. усмоктваць.

*МАЦІ* ● **З МАЛАКОМ МАЦІ.** Гл. малаком.

**М`АЦІ-І-М`АЧЫХА**. *Мн. не ўжыв. Часцей дзейн. і дап. Разм.* Лекавая расліна сямейства складанакветных з шырокімі лістамі, пакрытымі спаднізу белымі варсінкамі, і жоўтымі кветкамі (tussilago L.); падбел. *Маці адна, маці незаменная. Другая ўжо – мачыха. Зірніце на краску маці-і-мачыха – і заўважце, што розныя пялёсткі не толькі па колеры – па цеплыні, па шчырасці.* Барадулін. *Ля валуна, у зацішку, на санцагрэве вылузаліся з зямлі кволыя кветачкі маці-і-мачыхі.* Рыбак.

**У Ч`ЫМ (ЯК) М`АЦІ НАРАДЗ`ІЛА.** *Цяп. і буд. не ўжыв. Часцей азн. Разм.* Без усякага адзення, голы. **Сін**.: у касцюме Адама; у касцюме Евы. *Мужчыны кляліся, што стрыжаная жанчына вядзьмарыць у чым маці нарадзіла.* Асіпенка. *Выкруці [адзенне], калі ласка. А то я сяджу ў чым маці нарадзіла.* Дайнека. *Пачаўся вобыск. Мы стаялі на цэментаванай падлозе як маці нарадзіла, а наглядчыкіператрасалі нашу вопратку.* Пестрак. *Цяпер у сне гэтыя русалкі адна за адной выйшлі з жыта, голыя, як маці нарадзіла, і палезлі купацца ў рэчку.* А.Жук.

*МАЧА* • **МАЧ`А Ў ГАЛАВ`У СТ`УКНУЛА (УД`АРЫЛА)** *каму. У безас. ужыв. Праст. Асудж.* Хто-н. зрабіў безразважны ўчынак. – *Табе што – мача ў галаву стукнула? Бугай бяльмасты! От падыду ды самога – па пысе?..* Кусянкоў. *Верылася, стане цяпер лягчэй: хлопец ён талковы, на рабоце будзе ацэнены, глядзіш, ажэніцца, пойдуць унукі, і яна пры ім спакойна, нармальна ўвойдзе ў старасць. Дык жа мача чалавеку ў галаву ўдарыла – надумаў вучыцца далей. Ды дзе – у тэатральным.* Мехаў.

*МАЧАЦЬ* • **МАЧ`АЦЬ <СВ`ОЙ ХЛ`ЕБ> У ДЗВ`Е С`ОЛІ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адначасова дасягаць дзвюх мэт. **Сін**.: <адным стрэлам> забіваць двух зайцаў; гнацца за двума зайцамі; злавіць двух зайцаў. *[Павэлак:] У дзве солі мачаў. Любоў нянавісцю выпальваў... Сын! У мяне рос сын, а я, сукін кот, і ў думках не насіў, што гэтак магло абярнуцца.* Бондар. **МАКНУЦЬ <СВОЙ ХЛЕБ> У ДЗВЕ СОЛІ.** *Зак. Я спрабую, як кажуць, макнуць свой хлеб у дзве солі.* Мехаў.

*МАЧЫХА* • **МАЦІ-І-МАЧЫХА.** Гл. маці.

*МАШЫНА* • **СТ`ОП МАШ`ЫНА.** *У знач. дзеясл. вык. Разм.* Часцей ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Перастаў займацца чым-н., спыніўся. *Пасля смерці брата прыехаў сюды ненадоўга, а застануся тут, мабыць, да той пары, пакуль зверху ці знізу скамандуюць: «Стоп машына!»* Самуйлёнак. *«Дайшоў, мысліцель! — Сяргей вымавіў гэта з іроніяй. —Да якой ступені? Стоп машына!..»* Шамякін. *І вось я паклаў перад сабой стос чыстай паперы, узяў шарыкавую ручку і ўжо хацеў пісаць... І раптам — стоп машына! Як жа назваць героя!* Зуб.

**ЯК ЗАВ`ЕДЗЕНАЯ МАШ`ЫНА.** *Акал. Функц. не зам.* Аднастайна і бесперапынна, з механічнай дакладнасцю (рабіць што-н.). **Сін**.: як заведзены. *Што Вільгельм! Ён дзейнічае як заведзеная машына: зняў допыт, кінуў у турму. І бедалага-чалавек ні за што ні пра што пакутуе.* Гамолка. *Мы бегаем па пляцы, як вар'яты, як заведзеныя машыны.* Дайнека.

*МЕДАЛЯ* • **АДВАРОТНЫ БОК МЕДАЛЯ.** Гл. бок.

**АДЗІН БОК МЕДАЛЯ.** Гл. бок.

**ДВА БАКІ АДНАГО МЕДАЛЯ.** *Гл. бакі.*

*МЕДНЫ* • **МЕДНЫ ЛОБ.** Гл. лоб.

*МЕДНЫЯ* • **ПРАЙСЦІ <ПРАЗ> АГОНЬ І ВАДУ І МЕДНЫЯ ТРУБЫ.** Гл. прайсці.

*МЕЗЕНЫ* • **НА МЕЗЕНЫ ПАЛЕЦ.** Гл. палец.

*МЕЛЕ* • **ЯЗЫК МЕЛЕ** *ў каго.* Гл. язык.

*МЕЛІ* • **СЯДЗЕЦЬ НА МЕЛІ.** Гл. сядзець.

*МЕЛКА* • **МЕЛКА ПЛАВАЦЬ.** Гл. плаваць.
*МЕЛЬ* • **САДЗІЦЦА НА МЕЛЬ.** Гл. садзіцца.

**САДЗІЦЬ НА МЕЛЬ** *каго, што.* Гл. садзіць.

*МЕНЕЙ* • **С`АМА М`ЕНЕЙ.** *Часцей акал. Разм.* Не менш за тое (пра што гаворыцца). **Сін**.: худа-бедна. **Ант**.: сама большае. *Конік.. меў не болей двух гадоў, як суседзі кажуць. Баба ж тая — сем пудоў, сама меней, важыць.* Крапіва. *За паўгадзіны слова не скажа. Адно. Як быццам творыць цуд. Адчуй, персона колькі важыць, і слова — сама меней! — пуд!* Лужанін.

*МЕНШ* • **НІ БОЛЬШ НІ МЕНШ <ЯК>.** Гл. больш.

**ТЫМ НЕ МЕНШ. Гл.** тым.

*МЕНШАЙ* • **ПА МЕНШАЙ МЕРЫ.** Гл. меры.
*МЕНШЫЯ* • **БРАТЫ НАШЫ МЕНШЫЯ.** Гл. браты.
*МЕРАЙ* • **МЕРАЦЬ МЕРАЙ** *якой каго, што.* Гл. мераць.
*МЕРАЦЬ* • **М`ЕРАЦЬ АДН`ОЙ М`ЕРКАЙ** *каго, што. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Меркаваць пра каго, што-н. зусім аднолькава, без уліку індывідуальных асаблівасцей. **Сін**.: адным махам семярых забіяхам (у 1 знач.); мераць на адзін аршын *каго, што*; мераць на адзін капыл *каго, што*; ставіць на адну дошку *каго з кім, што з чым, каго і каго, што і што*; ставіць знак роўнасці *паміж кім, паміж чым*; ставіць у адзін рад *каго з кім*; стрыгчы пад адзін грабянец *каго. У іх свае душы, у нас свае. Навошта мераць адной меркай?* Бондар. *Усіх адной меркаю не мерце, хоць многіх і аднолькава завуць. Адны памруць адразу пасля смерці, другія — на стагоддзі ажывуць.* Грахоўскі. **ПАМЕРАЦЬ АДНОЙ МЕРКАЙ** *каго, што. Зак. А ці мала ён [Мікіта] ведае выпадкаў, праўда, з кніг, як з добрапрыстойных, таварыскіх, адважных падлеткаў выраставалі падлюкі, забойцы, а то і здраднікі. Усяго і ўсіх адной меркай не памераеш.* Лужанін.

**М`ЕРАЦЬ АСЬМ`ІНАЙ** *<u>грошы.</u> Незак. Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Многа мець, атрымліваць, нажываць (грошай). **Сін**.: грэбці лапатай; купацца ў золаце. *[Куторга:] Ды і пасаг мае гаспадарскі: адна ў бацькоў, а стары грошы асьмінаю мерае.* Дунін-Марцінкевіч. *На свеце белым, пад Гайнай убогай, жыў шляхціц багаты, меў поля ён многа, і конікаў сытых, і ўсякай скаціны, і грошы, што чуць іх не мераў асьмінай.* Купала.

**М`ЕРАЦЬ В`ОКАМ (ВАЧ`АМІ, ВАЧ`ЫМА)** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Уважліва аглядаць каго-н., нібы ацэньваючы. *Двое ідуць наперадзе. За імі дзед Талаш, а трэці, старшы, ідзе збоку і трохі наўзбоч. Дзед Талаш мерае вокам іх фігуры, ацэньвае іх фізічную сілу.* Колас. **ЗМЕРАЦЬ ВОКАМ (ВАЧАМІ,**

**ВАЧЫМА)** *каго. Зак. Адзін, той, што вылез з-пад машыны, азірнуўся на яе, змераў вокам, нібы толькі цяпер убачыў Раю, сказаў трохі мякчэй, чым гаварылі іншыя: —Шыбуй, шыбуй... Калі паправі́м гэту ламачыну, то дагонім, возьмем.* Арабей. *Пан вачыма дзеда змераў: — Здатны да чаго, мужык?* Астрэйка.

**М`ЕРАЦЬ ЗЯМЛ`Ю.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Хадзіць пехатой на вялікую адлегласць. *Знаем мы навуку, знаем не адну: .. беспрыпыннай зданню мераці зямлю...* Купала. *Вось ужо каля двух год, як яны [бежанцы] мераюць зямлю, стукаюць у запёртыя дзверы непрыветных дамоў, гутараць з нячулымі людзьмі пра сваё гора.* Гартны.

**М`ЕРАЦЬ М`ЕРАЙ (М`ЕРКАЙ, АРШ`ЫНАМ)** *якой (якім) каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Меркаваць, ацэньваць з якога-н. пункту гледжання. **Сін**.: мерацьна аршын *які каго, што*; мерацьна капыл *які каго, што. —Мы няправільна падыходзім да Веры Гаецкай,— працягваў Падацюк. —Мы мераем усіх аднолькавай меркай...* Дуброўскі. *Белы спакойна, незласліва і бязлітасна вёў сваю гаворку, мераў усё сваёй меркай.* Мележ. *[Марылька:] Дапусцім, погляды ўстарэлі матчыны — не тою меркай мерае наш свет.* Гілевіч. *Без вайны вы сябе не ўяўляеце. Ці не так? І ўсё мераеце салдацкай мерай. Іншай у вас няма. Праўда ж.* Быкаў. *Ім цягнуцца і цягнуцца трэба, каб зразумець справядлівасць нашу, пралетарскую. Яны прыраслі к старому, усё мераюць старым аршынам!* Мележ.

**М`ЕРАЦЬ НА АДЗ`ІН АРШ`ЫН (НА АДН`У М`ЕРКУ)** *каго, што. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Меркаваць пра каго, што-н. зусім аднолькава, не ўлічваючы індывідуальных асаблівасцей. **Сін**.: адным махам семярых забіяхам (у 1 знач.); мерацьадной меркай *каго, што*; мерацьна адзін капыл *каго, што*; ставіць на адну дошку *каго з кім, што з чым, каго і каго, што і што*; ставіць знак роўнасці *паміж кім, паміж чым*; ставіць у адзін рад *каго з кім*; стрыгчы пад адзін грабянец *каго. Не мерай усіх на адзін аршын, таварыш старшыня!* Шамякін. *Я ніколі не паверу, што ў брыгадзе ўсе лодары і абібокі. Наогул людзей на адзін аршын не мерайце! Лепш сябе мераць па другіх.* Махнач. *Зарэчны не проста здольны, а таленавіты журналіст. І нельга яго, як і ўсіх, мераць на адну мерку, заганяць у пракрустава ложа агульных правілаў.* Прыгодзіч.

**М`ЕРАЦЬ НА АДЗ`ІН КАП`ЫЛ** *каго, што. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Меркаваць пра каго, што-н. зусім аднолькава, не ўлічваючы індывідуальных асаблівасцей. **Сін**.: адным махам семярых забіяхам (у 1 знач.); мерацьадной меркай *каго, што*; мерацьна адзін аршын *каго, што*; ставіць на адну дошку *каго з кім,*

*што з чым, каго і каго, што і што*; ставіць знак роўнасці *паміж кім, паміж чым*; ставіць у адзін рад *каго з кім*; стрыгчы пад адзін грабянец *каго*. *[Няслаўскі:] Дык вось, я ведаю, што вы рабочыя. Але бачыце, нельга ўсіх рабочых мерацьна адзін капыл.* Мурашка. *Нас Жыльчык зняверыў, а ты ўсіх на адзін капыл мераеш.* Пальчэўскі. *[Аляксей:] Ты ўсіх на адзін капыл не мерай. Думаеш, калі твой Барыс такі, дык усе такія?* Маўзон.

**М`ЕРАЦЬ НА АРШ`ЫН** *які каго, што. Незак. Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Меркаваць, ацэньваць з якога-н. пункту гледжання. **Сін**.: мерацьмеркай *якой каго, што*; мерацьна капыл *які каго, што*. *Сымон Мікуць, з нейкай дзіўнай яму раздражнёнасцю, гаварыў кожнаму: —Здаецца, пара адвыкнуць ад гэтай бабскай прывычкі мерацьўсё на стары аршын.* Чорны. *Міхась Кірылавіч ўсё мерае на гарадскі аршын.* Шамякін.

**М`ЕРАЦЬ НА КАП`ЫЛ** *які каго, што. Незак. Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Меркаваць, ацэньваць з якога-н. пункту гледжання. **Сін**.: мерацьмеркай *якой каго, што*; мерацьна аршын *які каго, што*. *Так то так, але ж нельга ўсіх мерацьна адзін капыл! Канечне, нельга... Ды паспрабуй некаму дакажы, на які капыл цябе трэба мерацьм...* Блакіт.

**М`ЕРАЦЬ НА СВ`ОЙ АРШ`ЫН** *каго, што. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Меркаваць пра каго, што-н. вельмі суб'ектыўна, аднабакова, з асабістага пункту гледжання. **Сін**.: бачыць са сваёй званіцы *што*; глядзецьса сваёй званіцы *на каго, на што*; мерацьна свой капыл *каго, што*; стрыгчы пад свой грабянец *каго*. *[Зоя Антонаўна:] Хоць экспертыза і даказала, што ён не вінаваты ў смерці Алега Трахімавіча, ёсць людзі, якія мераюць усё на свой аршын, Кажуць, пакрылі, замялі, пашкадавалі добрага спецыяліста.* Крапіва. *Дапусцім, што маё каханне не сапраўднае, вычытанае з кніжак. А тваё якое? Мусіць, у цябе яго няма, таму ты ў яго і не верыш, мераеш усіх на свой аршын.* Арабей. *Дурань я... Усё на свой аршын мераю. Забываю, што ты цяжка паранены, хоць і «хадзячы»...* Міська.

**М`ЕРАЦЬ НА СВ`ОЙ КАП`ЫЛ** *каго, што. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Меркаваць пра каго, што-н. вельмі суб'ектыўна, аднабакова, з асабістага пункту гледжання. **Сін**.: бачыць са сваёй званіцы *што*; глядзецьса сваёй званіцы *на каго, на што*; мерацьна свой аршын *каго, што*; стрыгчы пад свой грабянец *каго*. *Адчапіся ты, дзядзька Марцін! Не мерай ты ўсіх на свой капыл!..* Брыль. *Я з вамі не згодны: вы ўсё мераеце на свой капыл...* Гартны. *Вера Антонаўна, мераючы ўсё на свой капыл, шчыра абуралася з усяго, з чаго толькі магла.* Карпаў.

*МЕРКАЙ* ● **МЕРАЦЬ АДНОЙ МЕРКАЙ** *каго, што.* Гл. мераць.

**МЕРАЦЬ МЕРКАЙ** *якой каго, што.* Гл. мераць.

*МЕРУ* ● **ВЕДАЦЬ МЕРУ.** Гл. ведаць.

**НЕ Ў М`ЕРУ.** *Акал. Функц. не зам.* **1**. У вялікай колькасці (плаціць, траціць і пад.). *Грошай страціў я не ў меру на харчы і на кватэру, яшчэ болей на паперу, атрымаў жа дулю-бэру.* Крапіва.

**2**. *які.* Занадта, больш, чым трэба. *Расказы гэтыя паўтараліся безліч разоў і кожны дзень, паколькі штодня прыбывалі злоўленыя ўцекачы, папаўняліся новымі фактамі. Каб зноў паўтарацца і зноў папаўняцца, ствараючы свой — часамі не ў меру геройскі, але ў асноўным праўдзівы, заслужана горды — фальклор.* Брыль.

**ПРАЗ (Ц`ЕРАЗ) М`ЕРУ.** *Акал. Разм.* **1.** Вельмі многа, больш, чым трэба. **Сін**.: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач,); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго,* па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. «Дурань ты,— кажа Агата, — выпіў цераз меру*; *але маладзец, што каня добрага выгандляваў*; *кладзіся спаць!»* Ядвігін Ш.

**2.** Вельмі моцна, бязмежна. **Сін**.: без меры (у 2 знач.). *Па небе, забіраючы з кожным днём усё большы круг, праходзіла свой шлях сонца, праз меру палівала ўснежаную зямлю святлом.* Галавач.

**У М`ЕРУ.** *Акал. Функц. не зам.* **1.** *які, як.* Дастаткова. *Цімафей Міронавіч.. звярнуўся да яе [жонкі] тонам у меру строгім.* Зарэцкі. *Потым чай пілі — з дымком і салодкі ў меру.* Гілевіч. *У паглядзе яго маленькіх, але надта пільных вочак было нешта гаспадарскае, спакойнае, у меру заклапочана разважлівае.* Быкаў.

**2**. Якраз столькі, колькі трэба (плаціць, даваць і пад.). *[Пытляваны:] Трыццаць тысяч. [Вера Паўлаўна:] Гэта многа ці мала для вашага калгаса? [Пытляваны:] У меру.* Крапіва. *Дажджы гэтым летам ішлі ў меру, і маліны ўрадзілі як ніколі.* С.Александровіч. *Пра кожнага сказана ў меру і так, што мы адчуваем, якія сапраўдныя, нявыдуманыя іх жыццёвыя клопаты і якая глыбокая ў аўтара зацікаўленасць і гэтымі іх клопатамі, і іх лёсам.* Адамовіч.

*МЕРЫ* ● **БЕЗ М`ЕРЫ.** *Акал. ці ў безас. ужыв. Функц. не зам.* **1.** Вельмі многа. **Сін**.: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго*. *Пакінь курыць, бо і праз дзверы праходзіць дым сюды без меры...* Колас. *Вось антоны, вось апорты, вось і слуцкія вам бэры тут вісяць, нібы збаны... Адным словам, тут без меры рознай ёсць садавіны...* Крапіва.

**2.** Вельмі моцна, празмерна. **Сін**.: праз меру (у 2 знач.). *[Пан] шпурляе кнігі, рве паперы і брудна лаецца без меры...* Колас. *Змарыліся касцы без меры, аднак жа не даюць спакою косам — пракос праходзяць за пракосам.* Крапіва.

**ПА КР`АЙНЯЙ М`ЕРЫ. 1.** У *знач. пабочн. сл. Функц. не зам.* Прынамсі. **Сін**.: ва ўсякім выпадку (у 2 знач.); ва ўсякім разе (у 2 знач.). *Каню не трэба, па крайняй меры, досвіткам ўсхопліваца — даваць.* Баранавых. *Трывожыць тое, што наперадзе. А тое, што было, здаецца ўжо лёгкім, такім, што не варта пра яго і ўспамінаць. Па крайняй меры, мінулае не турбуе.* Дамашэвіч.

**2.** *Азн. Разм. Адабр.* Выключны, вельмі добры. **Сін**.: адным словам; без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); будзь-будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); кругом сто дваццаць; на славу (у 3 знач.); на ўсе рукі; на ўсе сто (у 3 знач.); на яць (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога; першай гільдыі (у 1 знач.); першай рукі (у 1 знач.); першы клас; першы сорт; разлюлі-маліна (у 1 знач.); рэдкай рукі; слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.); як яечка. *—От бы каго паслаць у Думу дэпутатам! — жартавалі сяляне, цешачыся, як Нёман праразае ім шырокі разгон, — па крайняй меры быў бы дэпутат, бо стаіць за нас!* Колас.

**ПА М`ЕНШАЙ М`ЕРЫ.** *Акал. Функц. не зам.* Часцей ужыв. пры лічэбн. Не менш чым; як мінімум, самае меншае. *Не спяшайся [Галайня] — ведаў, што Сцяпан датэпае па меншай меры гадзіны праз тры.* Гроднеў. *Цяпер я быў бы па меншай меры дырэктарам завода... а можа, і яшчэ вышэй.* Васілёнак.

**ПА М`ЕРЫ** <u>*сіл.*</u> *Акал. Функц. не зам.* Адпаведна з (чыімі-н. сіламі). *Сатырычныя вершы, фельетоны, памфлеты, эпіграмы, подпісы пад карыкатурамі — вось тая зброя, якою я па меры маіх сіл наносіў удары ворагу.* Крапіва. *Кожны па меры сваіх сіл павінен служыць айчыне.* Навуменка.

**У АДН`ОЙ М`ЕРЫ.** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Такі самы, як і быў раней; без змен. *Гэта ж як я памятаю, дык ён усё ў адной меры.* Крапіва.

*МЕСЦА* ● **АГ`УЛЬНАЕ М`ЕСЦА.** *Адз. і мн. Часцей дзейн. ці дап. Кніжн.* Збіты выраз, агульнавядомая, неарыгінальная думка. **Сін**.: прапісная ісціна. *Пералік «музычных» назваў, якія давалі сваім творам беларускія паэты (Багушэвіч, Цётка, Колас), стаў ужо агульным месцам нашага літаратуразнаўства.* Бярозкін. *Ужо стала агульным месцам сцвярджэнне аб слабым уплыве крытыкі на літаратурны працэс, на творчую практыку.* Мушынскі.

**ВЕДАЦЬ СВАЁ МЕСЦА.** Гл. ведаць.

**В`УЗКАЕ М`ЕСЦА** *<дзе, у каго>. Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Слабы, ненадзейны ўчастак у якой-н. справе. **Сін**.: ахілесава пята *<чыя, каго, у каго>*; <самае> балючае месца *чыё, у каго*; слабае месца *чыё, у каго, чаго, каго, у чым* (у 2 знач.); слабая струнка *чыя, у каго. І ўсё ж сельскае будаўніцтва застаецца пакуль што, я б сказаў, вузкім месцам.* «Звязда». *Ёсць у нашай рабоце і вузкія месцы, якія не дазваляюць узняць навучальна-выхаваўчы працэс на тую вышыню,*

*якая цяпер патрабуецца.* «Настаўн. газ.» — *На жыллёвае будаўніцтва трэба націскаць, а то не будзе дзе жыць рабочым... — Правільна, — згадзіўся Азаркевіч. — Гэта цяпер у нас самае вузкае месца.* Гурскі.

**ДА АДНАГ`О М`ЕСЦА** *каму. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Абсалютна нічога не значыць, не патрэбна. **Сін.**: да лямпачкі *каму*; да фені *каму*; ні ішоў <і> ні ехаў *каму*; па барабану *каму*; трын-трава *для каго, каму. — Я добра яму заплаціў. Бач, ты — іх саўдзельнік... — Я — стары чалавек, інвалід. Мне гэта саўдзельства — да аднаго месца.* Масарэнка. *Пакуль усякія там рэформы дойдуць да тых жа Мазалёў ці іншых глухіх вёсак, то ім яны — да аднаго месца, таму што ўсё тое будзе пасля іх. Жыццё, лічы, пражыта.* «Нар. воля».

**ДА М`ЕСЦА.** *Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Дарэчны, такі, які адпавядае пэўным абставінам. *Голас падаўся нясмелы, няўпэўнены, але раптам яго падтрымалі, бо ён, відаць, быў тут да месца.* Кулакоўскі. *Цытата — перакручана і не зусім да месца.* Брыль. *Гусар не адказаў на яе пытанне, і Карпаўна зразумела, што яно было не да месца.* Краўчанка.

**2**. *Акал.* Дарэчы, адпаведна абставінам (рабіць што-н.). **Сін.**: да ладу (у 2 знач.). **Ант.**: пад руку *гаварыць. Камандзір першай роты.. не да месца ціха спявае старую песню, колісь модную ў царскіх казармах...* Колас. *[Віктар] па прастаце сваёй можа ляпнуць што-небудзь зусім не да месца.* Шамякін.

**ЖЫВОГА МЕСЦА НЕ ЗАСТАЛОСЯ.** Гл. засталося.

**ЖЫВОГА МЕСЦА НЕ ПАКІНУЦЬ** *на кім.* Гл. пакінуць.

**ЖЫВОГА МЕСЦА НЯМА.** Гл. няма.

**З М`ЕСЦА Ў КАР'ЕР.** *Акал. Разм.* Адразу ж, неадкладна (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін.**: доўга не думаючы; з плеч ды ў печ (у 3 знач.). *Галасна паздароўкалася [Ліля] і затрашчала «з месца ў кар'ер»: — Іду міма і не вытрымала...* Міська. *Самсонкін з месца ў кар'ер паведаміў, што павінна адбыцца сустрэча з работнікамі Міністэрства будаўнічых матэрыялаў...* Гроднеў.

**ЗРУШЫЦЦА З МЕСЦА.** Гл. зрушыцца.

**ЗРУШЫЦЬ З МЕСЦА** *што.* Гл. зрушыць.

**КАБ Я З ГЭТАГА МЕСЦА НЕ СЫШОЎ.** Гл. я.

**М`ЕСЦА ПАД С`ОНЦАМ.** *Мн. не ўжыв. Часцей дап. Функц. не зам.* **1**. Трывалае, высокае становішча ў грамадстве. *[Сын:] Яны гушкаюцца, а я так стаю. То на адной назе, то на другой. Хіба не крыўдна? Мне што, бог не даў месца пад сонцам?* Макаёнак. *Бачыш, сабраліся і з Заходняй, і з Усходняй, тыя, хто з палякамі быў і хто з*

*бальшавікамі. І ўсе патрабуюць месца пад сонцам.* Сачанка.

**2**. Права на існаванне. *[Скарына:] Я за пошук месца пад сонцам для ўсіх моў і супраць міжрэлігійнай рознасці, а вы...* Петрашкевіч. *Бясконцы прагрэс, так сказаць. І дрэнны памірае, і добры. А пакуль і той, і другі жывуць — яны дзейнічаюць, змагаюцца за месца пад сонцам.* Масарэнка.

**МЕЦЬ МЕСЦА.** Гл. мець.

**МОКРАГА МЕСЦА НЕ ЗАСТАНЕЦЦА** *ад каго, ад чаго.* Гл. застанецца.

**М`ОКРАЕ М`ЕСЦА ЗАСТАН`ЕЦЦА (ЗАСТАЛ`ОСЯ)** *ад каго, ад чаго. У безас. ужыв. Праст.* Хто-, што-н. будзе знішчаны. Нярэдка як пагроза. **Сін**.: мокрага месца не застанецца *ад каго, ад чаго. — Тушыце агонь! Самалёты! — Запніце чым-небудзь. Бо як лясне штучку — мокрае месца застанецца.* Кудравец. *Пры зручным выпадку Краскін бэнцне па табе адным словам, як даўбешкай, і ад твайго, Музін, аўтарытэту застанецца толькі мокрае месца...* Рылько. *[Шафёр] малайчына яшчэ, што мог рэзка стрымаць такую махіну. А каб нявопытны які, ад таго хлопца мокрае месца засталося б...* Пальчэўскі.

**М`ЯККАЕ М`ЕСЦА.** *У ролі розных чл. ск. Разм.* Ягадзіцы, зад. *Адзін з мастакоў чытае кнігу, у якой галоўны герой падчас вайны дамовіўся з Гітлерам, што той будзе кожны дзень лупцаваць яго па мяккім месцы.* «ЛіМ». *Народ і цяпер з ахвотай падстаўляе мяккае месца для лупцоўкі.* «Маладосць». *Толькі я яе за мяккае месца ўшчыкнуў, як выходзяць з суседняга пакоя тры дурылы.* Далідовіч. *– Можна лічыць, што дазвол я ўжо атрымаў?! – Зараз я табе па мяккім месцы папругаю палічу!* Дудзюк.

**НА М`ЕСЦА.** *Акал. Разм.* Туды, куды трэба (пакласці, схаваць і пад.; выехаць, адправіцца і пад.). *Гэтых рэчаў муляр з мяшка не выняў. Назад паклаў ён і скрутак дроту. Узяў толькі малаток і лапату. Мяшок завязаў і паклаў на месца.* Нядзведскі. *Праект на гэты сапраўды важны аб'ект паступіў заказчыку дзень назад. Да таго ж, выехаўшы на месца, мы выявілі там цэлы клубок няўвязак.* «Звязда».

**НЕ АДЛЕЖЫЦЬ МЕСЦА.** Гл. адлежыць.

**НЕ ЗНАХОДЗІЦЬ <САБЕ> МЕСЦА.** Гл. знаходзіць.

**НЕ МАГЧЫ ЗНАЙСЦІ САБЕ МЕСЦА.** Гл. магчы.

**НЕ М`ЕСЦА.** *У безас. ужыв. Функц. не зам.* **1**. Нельга знаходзіцца дзе-н., сярод каго-н. *[Бражок:] Хлопцам у наш час у школе не месца.* Нядзведскі. *Хлопец заўжды лічыў, што такім, як Блішчынскі, не*

*месца нават у камсамоле...* Быкаў.

**2**. Нельга, не падыходзіць (быць чаму-н. ці рабіць што-н.). *Дзе і што Пятрусь, цяжка было рашыць. А шукаць — куды там! Не час і не месца.* Гартны.

**НЕ СЫСЦІ МНЕ З ГЭТАГА МЕСЦА.** Гл. сысці.

**НІ З М`ЕСЦА.** *Вык. Разм.* **1**. Не рухацца, стаяць нерухома. Загад, каманда каму-н. **Сін**.: ні кроку (у 1 знач.). *Сухі, высачэзны, сівабароды, як бог Саваоф з цёмнай хмары, панямонскі ўраднік Кабяк уварваўся ў пакой. Крыкнуўшы: «Ні з месца!», маланкай рынуўся на стол.* Колас. — *Стой! Ні з месца! Рукі ўгору! — пачуў ён [Стась] страшны голас і пазнаў, што гэта стары Банэдык.* Чарнышэвіч.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці канкр. прадмета. Быць у тым самым становішчы, не рухацца. **Сін**.: ні кроку (у 2 знач.); ні тпру ні ну (у 1 знач.). *Пра яго [Адзінцову] сілу ведала ўся воласць: мядзведзя паборае, учэпіцца за біла — конь ні з месца.* Грахоўскі. *Першыя сані зачапіліся вязам за корч і ні з месца.* Брыль.

**3**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Заставацца ў тым жа стане, на тым жа ўзроўні. *Магчыма, у наш час патрэбны і падобныя табе людзі. Ну, а я — я ўжо закарчэў на сваіх поглядах і болей ні з месца.* Гартны. *Яго падначаленыя сталі за гэты час яго начальнікамі, а ён — ні з месца.* Крапіва. *Спрачаўся, выкручваўся Габрусь — рады не дасі. Жонка ўперлася на сваім і — ні з месца!* Шынклер.

**ПАКАЗАЦЬ МЕСЦА** *каму.* Гл. паказаць.

**ПАСТАВІЦЬ НА <СВАЁ> МЕСЦА** *каго.* Гл. паставіць.

**ПУСТ`ОЕ М`ЕСЦА** *<для каго>. Мн. не ўжыв. У знач. вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нічога не значыць, нічога з сябе не ўяўляе. **Сін**.: нуль без палачкі *для каго, без каго, перад кім. Вера Андрэеўна наўмысля не заўважала Тамары, наўмысля падкрэслівала, што гаворыць толькі з сынам, што да дзяўчыны, якая тут, ёй няма ніякай справы, што яна для яе — пустое месца.* Арабей. *Хлопцы, што стаялі на дарозе, былі для яго [афіцэра] пустым месцам, і ён пазіраў на іх так, быццам збіраўся падмяць пад сябе.* Новікаў. *Сядзіць вось за сталом часамі значны чын. Спрабуй, скажы яму, што ён — пустое месца.* Корбан. — *Што ты?.. — перапытала Ліда, устаючы, — Ты — пустое месца, ты — нішто... мяшчанка.* Рылько.

**САДЗІЦЦА НА МЕСЦА** *чыё.* Гл. садзіцца.

**<С`АМАЕ> БАЛ`ЮЧАЕ М`ЕСЦА.** *Мн. не ўжыв. Функц. не зам.* **1**. *Часцей дап. ці акал.* Тое, што найбольш хвалюе, непакоіць, з'яўляецца прычынай пакут, клопатаў. *Злыдні шукаюць самага балючага месца ў чалавека.* Пестрак. — *Гэта халера, а не хлопец!.. Катаржнік!*

*Сібірака! — калолі.. бабулю ў балючае месца.* Гарэцкі.

**2**. *чыё, у каго. У знач. вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Найбольш слабы, паражальны бок у каго-н. **Сін**.: ахілесава пята <*чыя, каго, у каго*>; вузкае месца <*дзе, у каго*>; слабае месца *чыё каго, чаго, у каго, у чым*; слабая струнка *чыя, каго. [Бацька] пакрыўдзіўся, што Якуб быццам лічыць яго за няздатнага гаспадара... З практыкі Якуб ведаў, што гэта самае балючае месца ў бацькі, што ён цяпер доўга будзе скардзіцца, гаварыць жаласныя словы...* Крапіва.

**САСТУПАЦЬ МЕСЦА** *каму.* Гл. саступаць.

**СЛ`АБАЕ М`ЕСЦА**; **СЛ`АБАЯ МЯСЦ`ІНА** *чыё (чыя), у каго, каго, у чым, чаго. Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Істотны недахоп у чым-н. **Сін**.: ахілесава пята <*чыя, каго, у каго*>; вузкае месца <*дзе, у каго*>; <самае> балючае месца *чыё, у каго* (у 2 знач.); слабая струнка *чыя, каго. [Лабановіч:] Але справа не ў гэтым: слізнякі мы, бязвольнікі, людзі без цвёрдага грунту. Вот дзе наша слабае месца!* Колас. *Трэба верыць у свае сілы. Трэба добра ведаць ворага, яго сілу, яго зброю, яго слабыя мясціны.* Лынькоў. *Вершы пра Айчынную вайну змешчаны ў раздзеле «У тыя дні». Трэба сказаць, што гэта найбольш слабае месца зборніка.* Панчанка. *Касцюшка рашае сур'ёзна заняцца навукай. Слабых мясцін у яго падрыхтоўцы хоць адбаўляй.* Навуменка. *Па Маніных вачах выкладчыца здагадалася, што гэта ў яе слабае месца, задала некалькі дадатковых пытанняў.* Карпюк.

**СТАВІЦЬ МАЗГІ НА МЕСЦА** *каму.* Гл. ставіць.

**СТАВІЦЬ СЯБЕ НА МЕСЦА** *чыё, каго.* Гл. ставіць.

**СТАНАВІЦЦА НА <СВАЁ> МЕСЦА.** Гл. станавіцца.

**УСТУПАЦЬ МЕСЦА** *каму.* Гл. саступаць.

**Ц`ЁПЛАЕ М`ЕСЦА** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Матэрыяльна выгадная пасада, даходная служба. *Тып гэты — з тых, як гаворыць Андрэй, «землячкоў», якім пашанцавала натрапіць на цёплае месца, прыжыцца там і нават трохі «распанець».* Брыль. *І знайшоў я цёплае месца: перавёўся ў рамонтную кантору.* Кавалёў. *Цёплае месца службоўца-канторшчыка ніколі не пустое — аксіёма, і бедаваць па ім, слёзна плакаць наўрад ці варта...* Масарэнка.

*МЕСЦІЦЦА* ● **НЕ МЕСЦІЦЦА Ў ГАЛАВЕ** *чыёй, у каго.* Гл. укладваецца.

**ЯЗЫК У РОЦЕ НЕ МЕСЦІЦЦА** *ў каго.* Гл. язык.

*МЕСЦЫ* ● **БЕГ НА МЕСЦЫ.** Гл. бег.

**ВОЧЫ НА МОКРЫМ МЕСЦЫ** *ў каго.* Гл. вочы.

**ДУША НЕ НА МЕСЦЫ** *ў каго.* Гл душа.

**МАЗГІ НЕ НА МЕСЦЫ** *ў каго.* Гл. мазгі.

**НА Г`ОЛЫМ (ПУСТ`ЫМ) М`ЕСЦЫ.** *Акал. Функц. не зам.* З нічога, без уліку вопыту папярэднікаў (пачынаць, тварыць і пад.). **Сін**.: з нуля. *Прыступаючы да працы па ўдасканаленню нашага правапісу, мы не маглі не лічыцца з тым, што складаецца ён не ўпершыню, не на голым месцы.* Крапіва. *Пралеткультаўцы замыкаліся ў вузкіх сектанцкіх рамках, хацелі тварыць культуру на голым месцы, у штучных умовах.* Шкраба. *Кнігі Сяркова не з'явіліся і не маглі з'явіцца на пустым месцы.* Брыль.

**НА М`ЕСЦЫ.** *Акал. Разм.* Непасрэдна там, дзе што-н. адбылося, было ці будзе. *Рэкамендую асцярожнасць... Трэба на месцы ўстанавіць, з кім маеце справу.* Самуйлёнак. *Справа з будаўнічымі матэрыяламі вырашаецца на месцы.* Брыль. *Пісьмо не падпісана. Але рэдактар сказаў: з'ездзі, гэта недалёка, паглядзі на месцы, а раптам праўду піша чалавек, дык і праблемны матэрыял зробіш...* Гіль.

**НА М`ЕСЦЫ** *чыім, каго. Акал. Разм.* У становішчы каго-н. *[Каліберaў:] Я ўжо і не ведаю, што мне з ім рабіць?! Уявіце сябе на маім месцы. Што б вы мне параілі?* Макаёнак. — *Ведаеце, што я зрабіў бы цяпер на вашым месцы? — працягваў гаварыць палкавы камісар. — Вярнуўся б у свой калгас. Там вас добра ведаюць.* Чыгрынаў.

<u>*Палажыць, забіць*</u> **НА М`ЕСЦЫ.** *Акал. Разм.* Напавал, адразу насмерць. *Я яго адразу пазнаў. Гэта той самы палкоўнік. Мне страшна хацелася кінуцца да яго і палажыць яго на месцы. Я яго калісьці выратаваў, я яго і забіў бы.* Чорны. *З-за фортк і выткнулася лязо нарыхтаванай, паднятай угору сякеры, каб палажыць на месцы таго, хто першы высунецца з варот.* Крапіва.

**НА М`ЕСЦЫ ЗЛАЧ`ЫНСТВА** <u>*захапіць, злавіць*</u> і пад. *Акал. Функц. не зам. Звычайна ўжыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр.* Пры яўных доказах, у момант учынення чаго-н. заганнага. **Сін**.: на гарачым. *У гэты час у пакой уваходзіць бацька і за малым не заспявае іх на месцы злачынства.* Зарэцкі. *[Нейгаўз:] Дадзенай мне ўладай я... расстраляю кожнага, хто будзе схоплены на месцы злачынства.* Маўзон.

**НА СВА`ІМ М`ЕСЦЫ** <u>*быць, адчуваць сябе, апынуцца.*</u> *Вык. і акал. Функц. не зам. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адпавядае свайму прызначэнню, справе, якой заняты. *[Дзед Цыбулька:] Вот я добра ведаю, што і Уладзімір Андрэевіч адчувае сябе на сваім месцы. А вы кожны на сваім месцы?* Макаёнак. *Я і сама ведаю, што несправядлівыя да доктаркі: шмат каго яна ўратавала ўжо. На сваім месцы, адным словам.* Бондар. *Нашы газеты амаль штодня даюць нам прыклады і прозвішчы дурняў рознага гатунку, якія выпадкова апынуліся не на сваім месцы...* Крапіва.

**ПРАВАЛІЦЦА МНЕ НА ГЭТЫМ МЕСЦЫ.** Гл. праваліцца.

**САДЗІЦЦА НА ТЫМ САМЫМ МЕСЦЫ.** Гл. садзіцца.

**СТАЯЦЬ НА <АДНЫМ> МЕСЦЫ.** Гл. стаяць.

**ТАПТАННЕ НА МЕСЦЫ.** Гл. таптанне.

**ТАПТАЦЦА НА <АДНЫМ> МЕСЦЫ.** Гл. таптацца.

*МЕСЯЦ* ● **МЯД`ОВЫ М`ЕСЯЦ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* **1**. Пачатак сямейнага жыцця. *[Моцкін:] У вас цяпер самы шчаслівы момант у жыцці. Мядовы месяц. Гэта адзін раз у жыцці бывае.* Макаёнак. *У іншых дома сварка, лямант, крык. А тут бясконца месяц цягнецца мядовы...* Валасевіч.

**2.** *чаго.* Найлепшы час, перыяд росквіту чаго-н. *Польскае шляхецтва перажывала мядовы месяц адраджэння свае дзяржаўнасці, зварот да жыцця, здзяйсненне гадаваных вякамі надзей.* Колас. *Не сакрэт, што многія вельмі праўдзівыя, блізкія да дакумента творы.. у сэнсе літаратурнай формы былі тым, што А.Твардоўскі называе «яздой са спушчанымі лейцамі»... Гэта быў «мядовы месяц» іменна бытавой рэальнасці.* Адамовіч.

*МЕСЯЦА* ● **З МЕСЯЦА ЗВАЛІЎСЯ.** Гл. зваліўся.

**ЯК З МЕСЯЦА ЗВАЛІЎСЯ.** Гл. зваліўся.

*МЕТРЫ* ● **БАЧЫЦЬ НА ТРЫ МЕТРЫ ПАД ЗЯМЛЁЙ.** Гл. бачыць.

**БАЧЫЦЬ НА ТРЫ МЕТРЫ Ў ЗЯМЛЮ.** Гл. бачыць.

*МЕХ* ● **ЗА ПУСТЫ М`ЕХ <А Ў МЯХ`У СМ`ЕХ>** сварыцца, спрачацца. *Акал. Разм. Іран.* Без якой-н. важнай прычыны, з-за дробязі. **Сін**.: без дай рады; без нічога ніякага (у 3 знач.); без усякага-якага; за будзь здароў (у 1 знач.); за так (у 2 знач.); з ласкі на пацеху; не знай не ведай; ні з таго ні з сяго; ні з чаго ні з якага; ні села ні пала; так сабе (у 1 знач.). *Далібог, Сымонка, пасварыліся. І каб было за што? Эт, так, за пусты мех, а ў мяху смех. Дык усердзіўся і ўпрочкі стары дурань падаўся.* Грахоўскі. *[Андрэй:] Вы, мусіць, паспрачаліся нядаўна і, як кажуць, за мех, а ў мяху смех...* Козел. *Знелюбіла ж тады Івана братавая, Анюта! Абы якая гаворка — гультай ён, п'яніца. Сварацца за пусты смех. Успамінаюць леташні снег.* Мыслівец.

**М`ЕХ З Т`ОРБАЙ** нагаварыць. *Акал. Разм. Іран.* Вельмі многа і абы-чаго. **Сін**.: бочку арыштантаў; мех і кайстру; сем вёрст да нябёс і ўсё лесам; сем карабоў. *Хоць бы хутчэй прыйшоў Галай. Нагаварыў мех з торбай.* Асіпенка.

**М`ЕХ І К`АЙСТРУ** нагаварыць. *Акал. Разм. Іран.* Вельмі многа і абы-чаго. **Сін**.: бочку арыштантаў; мех з торбай; сем верст да нябёс і ўсё лесам; сем карабоў. *Ты толькі слухай яго, ён табе нагаворыць — мех і кайстру...* Кусянкоў.

**М`ЕХ (МЯШ`ОК) З САЛ`ОМАЙ.** *Адз. і мн. Часцей вык. Разм.*

*Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прастакаваты, някемлівы чалавек. **Сін**.: алёша з батонамі; галава <і> два вухі; галава садовая; галава яловая; дубовая галава; конь божы; курыная галава; куст альховы; медны лоб; пень асінавы; пустая галава. **Ант**.: светлая галава. *— Дзе вы прападаеце, лежабокі? — накінулася Вера. — Не хлопцы ў нас, а мяхі з саломай. Нават пагаварыць няма з кім.* Навуменка. *Аня пайшла замуж за фельчара. Быў у мястэчку адзін такі мяшок з саломай. Ад усіх хвароб выпісваў рыцыну ды нашатырны спірт.* «Полымя».

<u>*Сапці, дыхаць*</u> **ЯК М`ЕХ КАВ`АЛЬСКІ.** *Акал. Разм.* Шумна, гучна і часта. *Сапучы як кавальскі мех, [Адам] праз мінуту ўжо капаў у стайні яму.* Чорны. *Лаўрэн прыглядаецца да мяне сваім злосным вокам. Чырвоны, як рак вараны. Сапе як мех кавальскі.* Якімовіч. *— Не беражэш ты сябе... Дыхаеш, во... як мех кавальскі, — не пераставала ўшчуваць Аляксана.* Міська.

*МЕХА* ● **ПАЦЕХА З ПУСТОГА МЕХА.** Гл. пацеха.

**ЯК З МЕХА.** Гл. мяшка.

*МЕХАМ* ● **ЯК ПЫЛЬНЫМ МЕХАМ УДАРАНЫ.** Гл. ударань.

*МЕЦЦА* ● **М`ЕЦЦА НА ЎВ`АЗЕ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Падразумявацца. *Ці так, ці не, ва ўсякім разе другое мелася на ўвазе: Міхал любіў каля бутэлькі пытаць тых-сіх наконт зямелькі...* Колас. *Фармальныя спрэчкі вяліся пра публіцыстыку, а на ўвазе меўся, разглядаўся толькі нарыс.* Дуброўскі.

*МЕЦЬ* ● **М`ЕЦЬ Б`ОГА Ў С`ЭРЦЫ.** *Незак. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць сумленным, спагадлівым, чулым да каго-н., шкадаваць каго-н. *[Марыля:] Пакуль ты свайго дапнеш, што мы есці будзем?.. На мяне, матку тваю, і на гэтых малых не маеш бога ў сэрцы. Эх! Сымон, Сымон! Губіш ты сябе і нас усіх.* Купала. *Май ты бога ў сэрцы... Ці так жа добрыя людзі справы робяць, каб без нажа чалавека рэзаць?* Лынькоў. *Хіба ты ў сэрцы маеш бога? Каго ашукваеш, каго?* Колас.

**М`ЕЦЬ В`ОКА.** *Незак. Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* **1**. *на каго.* Адабр. Прыхільна ставіцца да каго-н., вельмі паважаць каго-н. **Ант**.: мець вока (у 2 знач.); мець зуб *на каго*; мець сэрца *на каго*; насіць камень за пазухай; не мець вока *на каго за каго, за што.* *[Пытляваны:] Мы прыехалі не грабіць вас, а прасіць вашай ласкі, каб вы аддалі нам сваю дачку. Харошая яна ў вас, і праўду ваш старшыня сказаў, што мы на яе вока маем.* Крапіва. *[Міхал:] На цябе нічога і думаць не будуць, на цябе там вока маюць, ты ў сельсавеце ўсё адно, як дэлегатка якая лічышся.* Чорны.

**2**. *на каго, супраць каго.* Адчуваць непрыязнасць да каго-н., ненавідзець каго-н. **Сін**.: мець зуб *на каго*; мець сэрца *на каго*; насіць камень за пазухай; не мець вока *на каго за каго, за што.* **Ант**.: мець вока (у 1 знач.). *На ворага ён [Пятрок] вока мае — бо праз яго шляхі закрыты.* Колас. *Ты на чалавека вока май, а гавары з ім, як з прыяцелем, каб не ўведаў ён, скуль бяда тая ўрэпілася на яго.* Лынькоў. *Бацька меў вока супроць Анішчыка яшчэ здаўна, нездарма пакутуе цяпер той.* Мурашка.

**М`ЕЦЬ Г`ОНАР.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. у спалучэнні з інф. пры дзейн. са знач. асобы. Часцей у 1-й ас. адз. як ветлівая ці ўгодлівая форма звароту. Удастоіцца. **Сін**.: мець ласку. *—Вы — новы, і ў нашых краях першы раз? — Новаспечаны, і ў вашых трушчобах маю гонар быць першы раз, — сказаў з усмешкай Лабановіч.* Колас. *— Маю гонар далажыць пану шэфу, — гаварыў гнуткі гутаперчавы чалавек па той бок стала, — маю гонар далажыць пану шэфу, што пагроза страйка ў наяўнасці.* Самуйлёнак. *— Ой, памалу! — крыкнула Дубравіна, бачачы, што злосць яго знікае, з усмешкай зрабіла рэверанс: — Маю гонар запрасіць вас да дырэктара.* Карпюк. *[Антэк:] Мы тут ужо мелі гонар выказацца і цяпер, ваша прападобнасць, просім вас зрабіць нам высокую ласку.* Зуб.

**М`ЕЦЬ З`УБ** *на каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Тайна ненавідзець каго-н., адчуваць непрыхільнасць да каго-н., імкнуцца прычыніць шкоду каму-н. **Сін**.: мець вока (у 2 знач.); мець сэрца *на каго*; насіць камень за пазухай; не мець вока *на каго за каго, за што.* **Ант**.: мець вока (у 1 знач.). *Галя зразумела, што Лосік, які заўсёды выглядаў такім шчырым і добрым чалавекам, мае на яе зуб.* Ермаловіч. *Селязнёў сядзіць злы ў кутку, бачу, на мяне зуб мае.* Быкаў. *— А можа, зяць на цесця зуб меў? — рагоча Андрэй.* Макарэвіч.

**М`ЕЦЬ Л`АСКУ.** *Незак. Разм.* Ужыв. у спалучэнні з інф. пры дзейн. са знач. асобы. Удастоіцца. **Сін**.: мець гонар. *[Чарнавус:] Дэкан, які меў ласку гэта паведаміць, быў не здань, а самы рэальны дэкан, паважаны Міхаіл Дзянісавіч.* Крапіва. *Усё закрыў сабою твар. Ён быў таксама, як і тыя, недагледжаны — пазнаў, небарак, і вецер, і пыл. Нічога, яго пабрыюць, памажуць і папудраць, калі будуць мець ласку вярнуцца туды [за граніцу].* Чорны.

**М`ЕЦЬ М`ЕСЦА.** *Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. **1**. Быць у наяўнасці, прысутнічаць. *У земстве незадаволены. Кажуць, тут мела месца вялікая карупцыя.* Лобан. *Маюць месца сурёзныя недахопы ў рабоце з педагагічнымі кадрамі.* «Настаўн. газ.»

**2**. Адбывацца, здарацца. *І заўважце — такія выпадкі мелі месца не адзін раз і былі ў розных губернях.* Колас. *Многія запазычаныя словы страцілі б уласцівае ім абліччa як у сэнсе напісання, так і агульнапрынятага вымаўлення. Асабліва гэта мела б месца пры спалучэнні некалькіх фанетычных асаблівасцей беларускай мовы, напрыклад, акання, дзекання, якання.* Крапіва.

**М`ЕЦЬ М`УХ У Н`ОСЕ.** *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць упартым, капрызным, наравістым. *[Сцяпан:] Ну, так тупай каля яе; толькі смела: яна дзеўка падатлівая, хоць, можа, і мае трохі якіх мухаў у носе.* Купала. *І праўда, пан быў злы, паганы і звераваты, надзіманы, і мух не мала меў у носе.* Колас.

**М`ЕЦЬ НА В`ОКУ** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Думаць пра каго-, што-н., падразумяваць каго, што-н. **Сін.**: мець на ўвазе (у 1 знач.). *З далейшай гутаркі высветлілася, што Ганну Карлаўну мае на воку і тутэйшы станавы прыстаў.* Колас. *— Куды ж вы думаеце ехаць? Мо, часамі, на старую кватэру?.. — Раней дзе-кольвечы да гатэля, а пасля ўжо прыйдзецца шукаць сталай кватэры... Мо, часамі, маеш на воку.* Гартны.

**2.** Браць пад увагу, улічваць. **Сін**.: мець на ўвазе (у 2 знач.); мець у воку *каго, што*; трымаць на вачах *каго, што. Калі што-кольвечы з маім бежанцам — зрабіце, што можна... — Буду мець на воку...* Гартны. *Фабрыкай.. падобных навін былі Забівачкі і Жарабкі. Моцна меў на воку гэтыя вёскі капітан Рыбін.* Пестрак.

**М`ЕЦЬ НА ЎВ`АЗЕ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. *каго, што.* Падразумяваць каго-; што-н. **Сін**.: мець на воку *каго, што* (у 1 знач.). *Учора ён [Сотнікаў] шкадаваў, што Рыбак не застрэліў гэтага старасту, а цяпер вось давядзецца разам загойдацца на адной перакладзіне. Вось і зразумей, дзе сябра, а дзе вораг, падумаў ён, маючы на ўвазе Рыбака.* Быкаў. *— Вы ўсе гарачыя. Толькі ў такой справе гарачкі пароць не трэба... — У якой гэта?.. — А ў нашай, партызанскай, — адказаў дзядзька, і цяжка было зразумець, што ён мае на ўвазе.* Дамашэвіч.

**2**. *што.* Улічваць што-н., не забывацца пра што-н. **Сін**.: мець на воку *каго, што* (у 2 знач.); мець у воку *каго, што*; трымаць на вачах *каго, што. — Каб былі камяні, дык можна было б сякую-такую печку скласці, — сказаў Мірон. — У далейшым будзем гэта мець на ўвазе і не мінаць аніводнага каменя, які дзе ўбачым.* Маўр. *Май на ўвазе: да Верынага лёсу я не застануся абыякавы гэтак жа, як да лёсу ўласнай дачкі. Зразумела табе?* Шамякін.

**3**. *што. Ужыв. ў спалучэнні з інф.* Разлічваць на што-н., ставіць мэту, задумваць (рабіць, зрабіць што-н.). *Аленка ламала галаву,*

*думаючы над тым, чаго Сцёпка каля іх хаты вандраваў. Хацелася думаць, што Сцёпка меў на ўвазе пагаманіць з ёю.* Колас. *Сакратар райкома не меў на ўвазе дабівацца ад мядзведзіцкіх якой-небудзь пэўнай пастановы.* Крапіва.

**М`ЕЦЬ Р`АЦЫЮ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Правільна, абгрунтавана думаць, гаварыць, паступаць; не памыляцца. *А ты, братка, усё-такі маеш рацыю... Я добра абмеркаваў гэтую справу і, ведаеш, цалкам з табой згодзен.* Зарэцкі. *Значыць, мы мелі рацыю: частка іхняга атрада была заслана нам у тыл.* Караткевіч.

**М`ЕЦЬ <СВ`АЮ> ГАЛАВ`У НА ПЛЯЧ`АХ.** *Незак. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць дастаткова разумным, кемлівым. *Я не паддаюся ніякім настроям, сваю галаву маю на плячах і напісаў тое, што падсказала мне сумленне.* Сабаленка. *Гэта так, даражэнькая, але ты сваю галаву павінна мець на плячах.* Радкевіч. *— Добра ведаю, што з Валынцом хочаце скрыню з грашыма ўкрасці. — Хочам і цябе ў хаўрус узяць. — Не дай божа, хіба галавы не меўшы на плячах.* Лобан. *Скончыў ты добра наш тэхнікум. Галаву на плячах маеш.* Левановіч.

**М`ЕЦЬ СЛ`ОВА.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Атрымліваць дазвол выступіць дзе-н. *[Страмілін:] Слова мае дырэктар завода Барыс Пятровіч Шугаеў.* Крапіва. *Упаўнаважаны з воласці заявіў, што слова мае каморнік.* Мележ.

**М`ЕЦЬ СПР`АВУ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. *з кім, з чым.* Сутыкацца з кім-н. ці якім-н. фактам, з'явай і пад. *«Ці не той самы, з якім я ўчора меў справу? — пажартаваў Рыгор, і, калі параўняўся з ім, гарадавік пільна паглядзеў на яго і тут жа адвярнуўся.* Гартны. *Быццё вызначае свядомасць кожнаму, а ён, гэты «кожны» з тубыльцаў нашай планеты, жыве ці жыў на свеце, а значыцца, мае справу з такой вялікай штукай, як само жыццё.* Чорны.

**2.** *з кім.* Уступаць у якія-н. адносіны, у пэўныя сувязі. *З разумным чалавекам прыемна справу мець.* «Полымя». *[Пан:] А ты не ашукаеш? [Несцерка:] Як жа я магу пана ашукаць? Пан такі разумны ды хітры. Гэта ж не жарты з такім панам справу мець...* В.Вольскі.

**3.** *з чым.* Карыстацца чым-н., зварочвацца да чаго-н. *Магазін — Міншвеяў дваццаць, прадаўцоў зусім няма там: хто прыходзіць адзявацца, мае справу з аўтаматам.* Крапіва.

**М`ЕЦЬ С`ЭРЦА** *на каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Злавацца на каго-н. **Сін**.: мець вока (у 2 знач.); мець зуб *на каго*; насіць камень за пазухай; не мець вока *на каго, за каго, за што.*

**Ант**.: мецць вока (у 1 знач.). *І Костусь бровы свае хмурыць: і ён на брата сэрца мае, бо Уладзя дзядзьку зневажае.* Колас.

**М`ЕЦЬ У В`ОКУ** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Улічваць, браць пад увагу. **Сін**.: мець на воку *каго, што* (у 2 знач.); мець на ўвазе (у 2 знач.); трымаць на вачах *каго, што. Калі паміраць, то трэба адно мець у воку, ці ўсё ты купляеш сваім жыццём, ці мог бы ты яго прадаць за больш дарагую цану.* Гартны. *Слухай, Андрэй.. Ты ж таксама Адэлю ў воку меў ці мо пасаг яе...* Чарнышэвіч.

**НЕ М`ЕЦЬ В`ОКА** *на каго за каго, за што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адчуваць непрыязнасць да каго-н., ненавідзець каго-н. **Сін**.: мець вока (у 2 знач.); мець зуб *на каго*; мець сэрца *на каго*; насіць камень за пазухай. **Ант**.: мець вока (у 1 знач.). *Па службе выйдзе папушчэнне ці так няважнае здарэнне, Абрыцкі пэўна ўжо падкусіць, данесці пану аб тым мусіць ды ад сябе яшчэ прыбавіць, каб чалавека абясславіць; дык на яго не мелі вока і з ім трымаліся далёка, хоць гэта ў вочы не казалі.* Колас. *Мікалай Камароўскі, той самы, на якога Рыгор за жонку вока не мае, усё ідзе ды ідзе па падвоканню: на сход!* Чорны.

*МЕЧ* ● **ДАМ`ОКЛАЎ М`ЕЧ.** *Мн. не ўжыв. Дзейн. ці дап. Кніжн.* Часта ўжыв. пры дзеясл. *вісець (над кім, над чым).* Пастаянная небяспека, неадступная пагроза. *Дамоклаў меч фашызм прынёс і мачты шыбеніц узнёс аж да нябёс.* Пушча. *Той, над кім павіс дамоклаў меч быць выкліканым і ісці са сваімі чарцяжамі да стала, на нейкі час быў выратаваны.* Навуменка. *Над большасцю сялянскіх хат вечна вісіць дамоклаў меч нядоімак.* Галавач.

**ПАДЫМАЦЬ МЕЧ** *на каго, супраць каго.* Гл. падымаць.

*МЁД* ● **ВАШЫМІ ВУСНАМІ МЁД ПІЦЬ!** Гл. піць.

**НА В`УСНАХ (НА ГУБ`АХ) М`ЁД, А НА (У) С`ЭРЦЫ Л`ЁД** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. знешне ветлівы, далікатны, а спадцішка прычыняе шкоду, непрыемнасці. *Мы павінны папярэдзіць тых, у якіх на вуснах мёд, а ў сэрцы лёд, якія на кожным перакрыжаванні брэшуць, як мая старая сучка...* Гурскі. *Тое, што было ў дзяцінстве, я ёй, можа б, даравала. Але ж яна не змянілася і ніколі не зменіцца, я ў гэтым упэўнена. На вуснах мёд, а на сэрцы лёд...* Радкевіч. *Нас можна запалохаць, набіць, але нас не абхітрыш. Я хітрыкі вашы адразу ўбачыў: на губах мёд, а на сэрцы лёд...* Далідовіч.

**НЕ МЁД.** *Разм.* **1**. Вык. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Нялёгкі, цяжкі. **Сін**.: не цукар (у 1 знач.). *Тады быў трывожны семнаццаты год. Запалі з нішчымніцы вочы. «Хоць нашая праца на*

*верфях не мёд, — хай будзе [сын] сумленным рабочым».* Панчанка. *А ён стаміўся за сёлетняе лета, як ніколі. Не, зусім не мёд — хлеб флагманскага спецыяліста.* Левановіч.

**2**. *каму. У безас. ужыв.* Нялёгка, мала прыемнага, радаснага. **Сін**.: не цукар (у 2 знач.). *То я табе скажу: хто і багацейшы, то і таму такім часам не мёд. А ваша сям'я як жыве!* Чорны. *[Насця] баялася, што я пра яе былое што падумаю, а мо не хацела, каб я ад яе самой уведаў, што ёй тут не мёд.* Сабаленка.

**ЯК МУХІ НА МЁД.** Гл. мухі.

*МЁДАМ* ● **МЁДАМ НАМАЗАНА** <*дзе*>. Гл. намазана.

*МЁДУ* ● **ЛЫЖКА ДЗЁГЦЮ <У БОЧЦЫ МЁДУ>.** Гл. лыжка.

*МЕРТВАЙ* ● **З МЁРТВАЙ КРОПКІ.** Гл. кропкі.

**МЁРТВАЙ ХВАТКАЙ.** Гл. хваткай.

**НА МЁРТВАЙ КРОПЦЫ.** Гл. кропцы.

*МЁРТВАМУ* ● **ЯК МЁРТВАМУ КАДЗІЛА.** Гл. кадзіла.

**ЯК МЁРТВАМУ ПРЫПАРКІ.** Гл. прыпаркі.

*МЁРТВАЯ* ● **МЁРТВАЯ ГАДЗІНА.** Гл. гадзіна.

**МЁРТВАЯ ХВАТКА.** Гл. хватка.

*МЁРТВЫ* ● **НІ ЖЫВЫ НІ МЁРТВЫ.** Гл. жывы.

*МЁРТВЫМ* ● **МЁРТВЫМ ГРУЗАМ.** Гл. грузам.

**МЁРТВЫМ СНОМ.** Гл. сном.

*МЁРТВЫЯ* ● **МЁРТВЫЯ ДУШЫ.** Гл. душы.

*МІГ* ● **НА М`ІГ.** *Акал. Разм.* На вельмі кароткі час. **Сін**.: на адно імгненне вока; на <адну> мінуту; на <адну> секунду; на капельку. *Лемяшэвіч, глянуўшы на старога настаўніка зблізку, на міг сумеўся: яму здалося, што ён сустракаўся з гэтым чалавекам раней.* Шамякін. *Моўчкі ўскінула вочы, і замёр я на міг: сумны позірк дзявочы мне ў сэрца пранік.* Гілевіч. *Зямля, раскрыйся хоць на міг, на міг вярні любімых, мілых!* Гаўрусёў.

**НІ НА М`ІГ.** *Акал. Разм. Ужыв. ў адмоўн. ск.* Нават на самы кароткі час. **Сін**.: ні днём ні ноччу; ні на <адну> мінуту; ні на секунду. *На волю сэрца рваціа не праставала да сяброў баявых, што ў падполлі ні на міг барацьбы не спынялі.* Танк. *[Маці] усё тупала і тупала па хаце, ні на міг не спыняючыся.* Савіцкі.

**У АДЗ`ІН М`ІГ.** *Акал. Разм.* Ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр. Адразу ж, імгненна, вельмі хутка (зрабіць што-н., адбылося што-н.). **Сін**.: у адзін мах; у <адзін> момант; у <адну> мінуту; у імгненне вока; у міг вока; у момант вока; як бач; як бачыш (у 1 знач.); як вокам згледзець (у 1 знач.); як га; як слова сказаць; як стой. *У адзін міг усё змянілася.* Бядуля. *У адзін міг, відаць, па трапнаму загаду Адамчука, энергічным кідком рушыла наперад першае аддзяленне.* Кулакоўскі. *Аказваецца,*

*няма такой задачы, якую б Юрка не рашыў у адзін міг.* Жычка.

**У М`ІГ В`ОКА.** *Акал. Разм.* Ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр. Адразу ж, вельмі хутка, імгненна (зрабіць што-н.). **Сін**.: у адзін мах; у адзін міг; у <адзін> момант; у <адну> мінуту; у імгненне вока; у момант вока; як бач; як бачыш (у 1 знач.); як вокам згледзець (у 1 знач.); як га; як слова сказаць; як стой. *Салдат, што апынуўся побач, у міг вока шпурнуў туды гранату і каменем упаў на зямлю.* Кулакоўскі. *У міг вока Хрысця саскочыла на падлогу.* Адамчык.

*МІГАХ* ● **НА М`ІГАХ** перагаворвацца, паказваць і пад. *Акал. Разм.* Пры дапамозе жэстаў, знакаў. **Сін**.: на мігі. *Смуглявы хлапчына стаіць у дзвярах, камячыць летнюю шапку з бліскучым казырком, паказваючы карэспандэнту на мігах, што пара ехаць.* Навуменка. *Кінуўся [Кутэвіч] да акна — да шыбы прыліп прыплюснуты нос шафёра Мішы. Міша на мігах прасіў выйсці да яго.* Блакіт.

*МІГІ* ● **НА М`ІГІ** размаўляць, пытаць і пад. *Акал. Разм.* Пры дапамозе жэстаў, знакаў. **Сін**.: на мігах. *Тут можна было пачуць розную мову: і рускую, і ўкраінскую, і беларускую, і нямецкую, і польскую, і чэшскую, і італьянскую; а больш за ўсё людзі размаўлялі на мігі і неяк дагаворваліся.* Гурскі. *[Алесь] спытаўся на мігі, ці адны мы, і кінуў знячэўку, як загад: — Сёння ты, Рыгор, нікуды не пойдзеш.* Карпаў.

*МІЖ* ● **А МІЖ Т`ЫМ.** *Акал. Фунц. не зам.* Сапраўды, фактычна. **Сін**.: на самай справе. *Выходзіць, нібыта яны не могуць быць асвоены беларускай мовай, нібыта яны чужыя для яе.. А між тым гэтыя словы для кожнага беларуса з'яўляюцца такімі ж роднымі, як словы: мама, галава, душа, розум, сэрца.* Крапіва. *Радасць сустрэчы рабіла людзей нячулымі да ўсяго іншага, а між тым становішча атрада было, відаць, нялёгкае.* Мележ.

**МІЖ ВАЧЭЙ.** Гл. вачэй.

**МІЖ ВУШЭЙ.** Гл. вушэй.

**МІЖ ДВУХ АГНЁЎ.** Гл. агнёў.

**МІЖ ЖЫЦЦЁМ І СМЕРЦЮ.** Гл. жыццём.

**МІЖ ІНШЫМ.** Гл. іншым.

**МІЖ МОЛАТАМ І КАВАДЛАМ.** Гл. молатам.

**МІЖ СЦЫЛАЙ І ХАРЫБДАЙ.** Гл. сцылай.

**МІЖ Т`ЫМ.** *Акал. Разм.* У той час. *У хаце ў Анупрэя падзеі між тым разгортваліся некалькі не так, як іх уяўляў Іллюк.* Хадкевіч. — *Я ў вас ужо і варывеньку вашу змецій, — між тым гаварыў Красуцкі.* Скрыган. *Раненых між тым усё прыбаўлялася.* Кулакоўскі.

**ПЛЫСЦІ МІЖ ПАЛЬЦАЎ.** Гл. плысці.

*МІКІТА* ● **І КВІТА <ПАНЕ> МІКІТА.** Гл. квіта.

*МІЛАВАЎ* ● **БОГ МІЛАВАЎ** <*каго*>. Гл. бог.

*МІЛАЙ* ● **З МІЛАЙ ДУШОЙ.** Гл. душой.
*МІЛАСЦІ* ● **МІЛАСЦІ ПРОСІМ.** Гл. просім.
*МІЛАСЦЬ* ● **ЗМЯНЯЦЬ ГНЕЎ НА МІЛАСЦЬ.** Гл. змяняць.
*МІЛАСЦЮ* ● **Б`ОЖАЙ М`ІЛАСЦЮ.** *У знач. прэдык. азн. Разм. Адабр.* Ужыв. пры наз. са знач. чалавека па прафесіі. Прыроджаны, сапраўдны, таленавіты, з выключнымі здольнасцямі. **Сін**.: з божай ласкі. *Максім Сцяпанавіч таксама сваё перадасць. Ён жа, як кажуць, інжынер божай міласцю.* Карпаў. *У чалавеку гэтым я бачу Дубоўку. Чырвонаармейца грамадзянскай вайны, студэнта Брусаўскага інстытута, блізкага сучасніка Ясеніна і Маякоўскага, паэта божай міласцю...* Брыль.
*МІЛЕНЬКІ* ● **ЯК М`ІЛЕНЬКІ (-АЯ, -АЕ, -ІЯ).** *Акал. Разм.* **1**. Без пярэчанняў і абавязкова (рабіць, зрабіць што-н.). *Вэня думаў: «Зараз ты будзеш у мяне як міленькі...»* Чорны. *Сядайце. Білет потым праверу. Не будзе — на першым прыпынку высаджу як міленькага.* Раманаў.

**2**. Без асаблівых цяжкасцей (зрабіць што-н.). *[Левановіч:] А мы яго, шэльму, за вушка ды на сонейка! [Гарлахвацкі:] Як міленькага!* Крапіва. *Пад’язджаю, трублю і крычу ўжо на станцыі: браткі, бандытаў хутчэй хапайце. І што ж вы думалі — усіх пабралі як міленькіх.* Лынькоў.
*МІЛУЮ* ● **ЗА МІЛУЮ ДУШУ.** Гл. душу.
*МІЛЫ* ● **СВЕТ НЕ МІЛЫ.** Гл. свет.
*МІМА* ● **БІЦЬ МІМА ЦЭЛІ.** Гл. біць.

**ІСЦІ МІМА РУК.** Гл. ісці.

**МІМА ВАЧЭЙ.** Гл. вачэй.

**МІМА ВУШЭЙ.** Гл. вушэй.

**МІМА РОТА НЕ ПРАНЕСЦІ.** *Зак. да* **МІМА РОТА НЕ НЕСЦІ.**

**ПРАХОДЗІЦЬ МІМА** *чаго.* Гл. праходзіць.
*МІНА* ● **ВЯС`ЁЛАЯ (Д`ОБРАЯ) М`ІНА ПРЫ ДР`ЭННАЙ ГУЛЬН`І.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Іран.* Маскіроўка свайго незадавальнення, непрыемнасцей знешнім спакоем, весялосцю. *На з’ездзе гаварылі.. аб «велічы, якая чакае нас». Але гэта не больш чым вясёлая міна пры дрэннай гульні.* «Настаўн. газ.» *Выступаючы па матывах галасавання, амерыканскі пасол, каб хоць нейкім чынам апраўдацца, захаваць добрую міну пры дрэннай гульні, мусіў гаварыць пра «два элементы» ў палітыцы сваёй партыі...* Вярцінскі.

**М`ІНА ЗАПАВ`ОЛЕНАГА ДЗ`ЕЯННЯ.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* Тое, што пагражае небяспечнымі наступствамі. *У 30-я гады рукапісы станавіліся для іх аўтараў мінай запаволенага дзеяння, – іх нярэдка падшывалі да судовай справы ў*

*якасці «доказаў» варожай думкі, – і часта служылі «падставай», каб «прышыць» пісьменніку 58-ы артыкул крымінальнага кодэкса – «антысавецкую прапаганду».* Конан. *Пытанне аб дзяржаўнасці рускай мовы было вынесена на рэферэндум... Гэта ўсё заклала міну запаволенага дзеяння для юнага пакалення: зараз у Беларусі паўтара мільёна школьнікаў, з іх менш за паўмільёна вучыцца ў беларускіх класах.* «ЛіМ». *Кааліцыя дазволіла б абысці пакінутыя каланіяльнымі адміністрацыямі міны запаволенага дзеяння – моўныя, рэлігійныя пытанні.* «Дзеяслоў».

*МІНІСТРУ* ● **КУМ КАРАЛЮ <І СВАТ МІНІСТРУ>.** Гл. кум.

*МІНІЯЦЮРЫ* ● **У МІНІЯЦ`ЮРЫ.** *Акал. Функц. не зам.* У вельмі зменшаным выглядзе. *Да краёў запоўнены збожжам засекі калгасаў. У мініяцюры мы бачым іх тут, каля стэндаў.* «Беларусь». *Лабараторыя — не толькі навуковая ўстанова, а і завод у мініяцюры.* Левановіч. *Мне захацелася купіць смачных ментузоў (рыба, падобная ў мініяцюры на вугроў).* Пашкоў.

*МІНУ* ● **ПАДВОДЗІЦЬ МІНУ** *пад што, пад каго.* Гл. падводзіць.

**РАБІЦЬ ВЯСЁЛУЮ МІНУ ПРЫ ДРЭННАЙ ГУЛЬНІ.** Гл. рабіць.

*МІНУТ* ● **БЕЗ ПЯЦ`І МІН`УТ.** *У знач. прэдык. азн. Разм. Часта іран.* Ужыв. пры наз., які абазначае чалавека па прафесіі, пасадзе, становішчы. Амаль што (з'яўляецца кім-н.). *З вашага дазволу, Сяргей Сяргеевіч, мы заслухаем аднаго з нашых будучых дысертантаў. Надзвычай таленавіты чалавек, без пяці мінут кандыдат.* Асіпенка. *Сённяшнія дзесяцікласнікі, як кажуць, без пяці мінут дарослыя людзі.* «Настаўн. газ.»

*МІНУТА* ● **МІН`УТА Ў МІН`УТУ; ХВІЛ`ІНА Ў ХВІЛ`ІНУ.** *Акал. Функц. не зам.* Абсалютна дакладна, у дакладна ўстаноўлены час. **Сін**.: секунда ў секунду. *Урок ёсць урок, і яго трэба пачынаць і канчаць мінута ў мінуту. У гэтым, мусіць, асаблівасць работы ў школе.* Ермаловіч. *Папярэднюю станцыю яны мінулі мінута ў мінуту па гэтым графіку і цяпер ідуць таксама добра.* Васілёнак. *Заўсёды добрасумленна, хвіліна ў хвіліну, выйшаў «тавар» з печы.* Бядуля. *Не можа быць.. анархіі на транспарце, які павінен жыць, як гадзіннік, хвіліна ў хвіліну.* Лынькоў.

**ЯК АДН`А МІНУТА.** *Акал. Разм.* Вельмі хутка, зусім непрыкметна (праляцець, прайсці). *Ноч праляцела як адна мінута.* Якімовіч. *Як адна мінута.. месяц праляцеў.* Юрчанка.

*МІНУТУ* ● **З МІНУТЫ НА МІНУТУ.** Гл. мінуты.

**МІНУТА Ў МІНУТУ. Гл.** мінута.

**НА <АДН`У> МІН`УТУ (МІН`УТКУ); НА <АДН`У> ХВІЛ`ІНУ**

**(ХВІЛ`ІНКУ).** *Акал. Разм.* **1**. На вельмі кароткі час, зусім ненадоўга (выйсці, зайсці, змоўкнуць і пад.). **Сін**.: на адно імгненне вока; на <адну> секунду; на капельку; на міг. — *Няхай пан зойдзе на мінуту! — сказаў Міхал...* Колас. *Вось зайшлі суседзі на мінутку, і павольна гутарка цячэ.* Астрэйка. *На адну хвіліну сышоў з яго [Аронавага] твару цень сур'ёзнасці.* Мурашка. *Алік на хвіліну змоўк, нібы для таго, каб сабрацца з думкамі.* Шашкоў. *Ірына сказала, што «толькі на хвілінку зойдзем».* Чорны.

**2**. Для вельмі кароткай размовы, паведамлення і пад. (клікаць, выклікаць і пад.). **Сін**.: на адно слова; на два словы; на пару слоў; на паўслова. *[Голас Саладухі:] Рыгор Вікенцьевіч! На адну хвілінку.* Гурскі. *[Марылька:] Тата, выйдзі на мінуту ў сенцы.* Чорны. *Мацей Дзянісавіч, выйдзі, калі ласка, на мінутку.* Шамякін. *[Гарлахвацкі:] Таварыш Туляга! Мікіта Сымонавіч! Сюды на хвілінку!* Крапіва.

**НІ НА <АДН`У> МІН`УТУ (ХВІЛ`ІНУ).** *Акал. Разм. Ужыв. ў адмоўн. ск.* Зусім, нават на самы кароткі час (не забываць, не пакідаць і пад.). **Сін**.: ні днём ні ноччу; ні на міг; ні на секунду. *У іх зачынаецца свая гутарка і ні на мінуту не змаўкае.* Колас. *Гэты вечны страх адказнасці, неспакою, трывогі не пакідае цябе ні на адну хвіліну.* Шахавец. *У гады вайны паэт жыў у Ташкенце, але ні на хвіліну не забываў родную Беларусь.* Шкраба.

**У <АДН`У> МІН`УТУ (ХВІЛ`ІНУ).** *Акал. Разм.* Часцей ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр. Зараз жа, вельмі хутка (зрабіць што-н.). **Сін**.: у адзін мах; у адзін міг; у <адзін> момант; у імгненне вока; у міг вока; у момант вока; як бач; як бачыш (у 1 знач.); як вока зглядзець (у 1 знач.); як га; як слова сказаць; як стой. — *Насілі, бедныя, збіралі, — а мы ў мінуту ўсё забралі, — тут пчолкам шчыра спагадаюць ды новы вулей падглядаюць.* Колас. *Вось што, арлы. У адну мінуту дадому.* Навуменка. *Сталася ўсё ў адну хвіліну.* Баранавых.

*МІНУТЫ* ● **З МІН`УТЫ НА МІН`УТУ; З ХВІЛ`ІНЫ НА ХВІЛ`ІНУ** *чакаць, павінен (можа) прыйсці, паказацца, быць* і пад. *Акал. Функц. не зам.* У самы бліжэйшы час. **Сін**.: вось-вось (у 1 знач.); з гадзіны на гадзіну; з секунды на секунду; з часу на час (у 1 знач.). *Нікне сонца ў чорным муту, хмаркі спуджана бягуць, і з мінуты на мінуту свет затопіць тая жудзь.* Колас. *Нямецкая рамонтная брыгада з мінуты на мінуту павінна замяніць пашкоджаную рэйку.* Дайнека. *У лагеры з хвіліны на хвіліну чакалі машыны для вывазу дзяцей далей ад фронту.* Якімовіч. *І касцёр не распаліш — з хвіліны на хвіліну могуць сюды прыйсці ворагі.* Рылько.

**НІ МІН`УТЫ (НІ ХВІЛ`ІНЫ).** *Акал. Функц. не зам. Ужыв. ў адмоўн. ск.* Нікольکі (не траціць часу, не марудзіць, не чакаць і пад.). **Сін**.: ні

секунды. *Цяпер не час абменьвацца нотамі. Больш чакаць нельга ні мінуты.* Шамякін. *Вера Андрэеўна ні мінуты не вагалася: ісці або не.* «Настаўн. газ.» *«Не шкадуйце, хлопцы, пораху...» — звяртаўся М.Танк да беларускіх партызан, якія знайшлі сабе прытулак у цёмнай пушчы, каб адтуль помсціць ворагу, не даваць яму ні хвіліны спакою.* Шкраба. *Берасцянкі, пеначкі, стрыжы не сядзяць на месцы ні хвіліны.* Агняцвет.

*МІНУЦЬ* ● **НЕ МІН`УЦЬ ВУШ`ЭЙ** *каго, чыіх. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Стаць вядомым каму-н. **Сін.**: даходзіць да вушэй *чыіх, каго. Весць аб карным батальёне пана Крулеўскага не мінула вушэй дзеда Талаша і яго вояк.* Колас.

**НЕ МІН`УЦЬ Р`УК** *чыіх. Зак. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. адуш. і канкр. прадмета. Стаць чыім-н. набыткам. Пра ўкрадзенае, захопленае хітрасцю. *[Сомік:] Усе ведаюць, што яны падлогу ў магазіне ўзадралі ды дошкі пакралі, што яны снапы ў мяне з азярода пацягалі, што не іначай яны і сала Тарасікава з свірна пакралі. І коні таксама іх рук не мінулі.* Крапіва. *Дзед так захадзіўся каля карча, аж вада кіпела наўкола. І вось урэшце дзед урачыста крыкнуў: — Ага! Папаўся-такі, не мінуў маіх рук!* Лынькоў.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Аказацца пад чыёй-н. уладай, не пазбегнуць каго-н. — *Ён маіх рук не міне, гэты Курыдзе! — гаварыў асобаатрадчык за сталом.* Самуйлёнак.

*МІР* ● **М`ІР ПР`АХУ** *каго, чыйму. Выкл. Функц. не зам.* Ужыв. пры ўпамінанні нябожчыка як пажаданне яму спакойнага замагільнага жыцця. **Сін.:** царства нябеснае *каму. Швагер (ужо колькі гадоў як нябожчык, мір праху яго) быў камуністам, у партыю ўступіў на фронце.* Гілевіч. *Я не аспрэчваю ваяўнічасці пана Пілсудскага. Мір праху яго! Але ж хіба не ён заключыў у 34-м годзе пагадненне з Гітлерам аб мірным вырашэнні спрэчак?* Якавенка.

*МІРАМ* ● **АДНЫМ МІРАМ МАЗАНЫ.** Гл. мазаны.

**З М`ІРАМ** *адпусціць, ісці. Акал. Функц. не зам.* Без пакарання, мірна. *Проста запрасіў [мястэчковы ўраднік] да сябе.. і сказаў: «Вось што, падпольны дарэктар!.. Будзем шукаць другога...» І адпусціў мяне з мірам.* Гарэцкі. *Савецкія ўлады.. абмежаваліся выгнаннем эмісараў. Адпусцілі з мірам: ідзіце ды не грашыце...* «Звязда».

**УС`ІМ М`ІРАМ.** *Акал. Разм.* Супольна, усе разам. *Суботнікам выйшлі вяскоўцы, мужчыны і жанчыны, усім мірам, хто на коніку, хто насілкамі навазілі, нацягалі пяску, высыпалі каля разбуранага мастка.. аб’езд.* Казько.

*МІРГНУЎ* ● **<І> ВОКАМ НЕ МІРГНУЎ.** Гл. маргнуў.

*МІРГНУЎШЫ* • **НЕ МІРГНУЎШЫ ВОКАМ.** Гл. маргнуўшы.

*МІРГНУЦЬ* • *Не паспее (-ў)* **І В`ОКАМ МІРГН`УЦЬ.** *Зак. Разм. Ужыв. ў першай частцы складанага ск.* (Не паспее) як мае быць усвядоміць, зразумець (як што-н. адбылося). *Прыгожа, класна пазычаў [я] у Мар'яна [ліхтарык]. Прыйшоў да яго ў кабінет, узяў і пайшоў. Павінен быў кніжку ўзяць, а ўзяў ліхтарык, прама з-пад носа ў яго, ён і вокам не паспеў міргнуць.* Казько. *Не паспее кліент і вокам міргнуць, як яму Карукоўская ўжо ў самыя зрэнкі неадступна глядзіць, Гердзя на вуха нешта шэпча, а Тамара па кішэнях шастае...* «Вожык».

*МІРУ* • **У МІРУ.** *Акал. Кніж.* У кампаніі з іншымі людзьмі. **Сін.**: на людзях. –– *Васіль Іванавіч, вам без чаргі. — Без чаргі я дзейнічаў толькі на вайне — біў фашыстаў. А ў міру стаю ў чэргах.* Шамякін.

*МІТУСНЯ* • **МЫШ`ЫНАЯ МІТУСН`Я**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Пустыя, бязладныя заняткі, клопаты і пад. *Вячка бачыў мышыную мітусню слуг, строгія твары сваіх вояў, густыя калматыя бароды баяр і прасталюдзінаў.* Дайнека.

*МЛЕЧНЫ* • **МЛЕЧНЫ ШЛЯХ.** Гл.. шлях.

*МЛЁН* • **НІ МЛ`ЁН НІ ТАЎК`АЧ.** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ні на што не здатны, няўмелы. **Сін**.: ні да танца ні да ружанца. *Я хацеў закрычаць, абразіць, сказаць, што ён ні млён ні таўкач, у нашым Чарцяжы так называлі нікчэмных, ні на што не здатных.* «Полымя». *На якое ліха такі зяць? Ён жа ні млён ні таўкач.* Янкоўскі.

*МЛІВА* • **ЯЗЫК`ОВАЕ МЛ`ІВА.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Пустаслоўе, пустая размова. *Языковае мліва негадзівае.* Янкоўскі. *[Ульяна:] А каму яно трэба, тое языковае мліва, калі я перад судом з-пад гэтай сцэны паўмяшка парожніх бутэлек выбрала.* Петрашкевіч.

*МЛОСНА* • **ЧАРЦ`ЯМ МЛ`ОСНА.** *Акал. Праст.* Так, што цяжка ўявіць. Пра што-н. такое, што выходзіць за межы звычайнага. *І мы згуляем такое вяселле, чарцям будзе млосна.* Грахоўскі.

*МЛЫН* • **ВАДА НА МЛЫН** *каго, чый.* Гл. вада.

**ЛІЦЬ ВАДУ НА МЛЫН** *чый, каго.* Гл. ліць.

**ПУСТ`Ы МЛ`ЫН.** *Мн. не ўжыв. Часцей у знач. вык. ці зваротка. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Чалавек, які займаецца пустымі размовамі; балбатун, пустаслоў. **Сін**.: пустая малатарня. — А *што папу казаць я маю? Я печ на рай не памяняю! — Цьфу, млын пусты! ото завала, бадай табе было зарвала!* Колас. — *Плюнь таму ў вочы, хто табе гэта казаў. — Пошта казаў. — Слухай ты, што табе скажа гэты пусты млын!* Крапіва.

*МНЕ* • **АВОХЦІ МНЕ!** Гл. авохці.

**АДСОХНІ МНЕ ЯЗЫК.** Гл. адсохні.

**НЕ СЫСЦІ МНЕ З ГЭТАГА МЕСЦА.** Гл. сысці.

**ПРАВАЛІЦЦА МНЕ НА ГЭТЫМ МЕСЦЫ.** Гл. праваліцца.

*МНОГА* ● **З'ЕСЦІ МНОГА СОЛІ** *з кім.* Гл. з есці.

**МНОГА БРАЦЬ НА СЯБЕ.** Гл. браць.

**НІ МАЛА НІ МНОГА.** Гл. мала.

*МНОГІМІ* ● **ЗАДАЧА СА МНОГІМІ НЕВЯДОМЫМІ.** Гл. задача.

*МНОЖАННЯ* ● **ЯК ТАБЛІЦУ МНОЖАННЯ** *ведаць* і пад. Гл. табліцу.

*МОВА* ● **АГ`УЛЬНАЯ М`ОВА** *<у каго з кім>. Мн. не ўжыв. Дзейн. і дап. Функц. не зам.* Поўнае ўзаемаразуменне, поўная дамоўленасць. *—О, як неважнецка вы выглядаеце, фрау! — з прытворнай устурбаванасцю прамовіў ён [следчы]. — Мабыць, мае хлопцы трошкі перастараліся, адшукваючы з вамі агульную мову.* Кудраўцаў. *Аднаго разу Віталь цяжка абразіў сына пры сябрах. Ведаеце, да гэтага часу памятае хлопец і не можа дараваць. Няма ў іх агульнай мовы, як у сыноў з бацькамі.* «Звязда».

**ЗНАЙШЛ`АСЯ АГ`УЛЬНАЯ М`ОВА** *ў каго з кім. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Хто-н. дасягнуў поўнага паразумення, дамовіўся з кім-н. *З Паходнем у яе знайшлася агульная мова, Васіліне падабаўся гэты малады старшыня...* Хадкевіч. *Люба пайшла з дзяўчатамі ў клас. І хоць некаторыя, як і яна, прыехалі сюды пасля доўгага перапынку ў вучобе.., агульная мова знайшлася вельмі хутка.* Васілевіч.

**ЭЗ`ОПАЎСКАЯ (ЭЗ`ОПАВА) М`ОВА.** *Мн. не ўжыв. Часцей дап. Кніжн.* Іншасказальнае, алегарычнае выказванне думак. *Было б, вядома, глыбокай памылкай лічыць, быццам дарэвалюцыйныя сатырыкі карысталіся эзопаўскай мовай выключна з цэнзурных меркаванняў.* Казека. *Аўтар прыводзіць прыклады, як газета карысталася эзопаўскай мовай і іншымі сродкамі.* «Полымя». *Антось сварыўся з Алаізаю, крычаў на яе, што яна загубіць газету, што трэба хаваць думкі за эзопавай мовай, што трэба ўстаўляць у газету і лаяльныя матэрыялы.* Арабей. *Кіньце гаварыць прытчамі, не люблю алегорый, эзопавай мовы.* Дамашэвіч.

*МОВАХ* ● <u>Гаварыць, размаўляць</u> **НА Р`ОЗНЫХ М`ОВАХ.** *Акал. Функц. не зам.* Не разумеючы адзін аднаго, па-рознаму адносячыся да прадмета размовы. **Сін**.: як гусь з парасём. *Куц і ён [Кунько] — гэта неба і зямля, іншапланецяне, яны гавораць на абсалютна розных мовах.* Радкевіч. *Нічога не разумею. Яшчэ ўчора была дачка як дачка. Сёння мы размаўляем, здаецца, на розных мовах.* Грамовіч. *[Вера Паўлаўна:] Памятайце: калі ўгнаенне не будзе вывезена, у нас з вамі будзе сур'ёзная размова... Непакоюся, бо нешта мы на розных мовах гаворым... Я кажу — жаваранкі, а вы — замаразкі... Ну, ну, паглядзім.*

Крапіва.

*МОВІЦЬ* • **Т`АК БЫ М`ОВІЦЬ**. *У знач. пабочн. сл. Разм.* Калі можна так выказацца. **Сін.**: так сказаць. *Найбольш, так бы мовіць, крымінагенная моладзь, калі верыць нашаму апытанню, жыве ў раённых цэнтрах.* «Маладосць». *Гэта [праца ў адным педагагічным калектыве] расслабляе, змяншае, так бы мовіць, яго [Сяргея] «канкурэнтаздольнасць».* «Настаўн. газ.» *Павялі [Барашку] на базар, дзе быў фатаграфічны атракцыён, так бы мовіць.* Барадулін.

*МОВУ* • **ЗНАХОДЗІЦЬ АГУЛЬНУЮ МОВУ** *з кім.* Гл. знаходзіць.

*МОВЫ* • **ДАР МОВЫ.** Гл. дар.

*МОЖА* • **НЕ М`ОЖА Б`ЫЦЬ.** *Выкл. Разм.* Выказванне недаверу, сумнення, здзіўлення і пад. *Корж з асаблівай цікавасцю распытваў у дзеда пра таго перабежчыка-афіцэра і здзіўляўся: «Няўжо праўда?», «Не можа быць!»* Грахоўскі. *— Ваша ж гаспадыня Тэкля бегала і званіла ўсім, што вы жаніцца сабраліся... — Не можа быць!* Наўроцкі. *— Усіх спалілі? За што? Не можа быць. Мо хто выратаваўся? — не паверыў Рокач.* Дзятлаў.

*МОЖНА* • **М`ОЖНА СКАЗ`АЦЬ.** *У знач. пабочн. сл. Разм.* Ужыв. для ўказання на магчымасць якога-н. выказвання, фармуліроўкі ў адносінах да каго-, чаго-н. *[Аўдоцця:] Шмат хто з вас і не помніць, які такі даўней каравай быў. Цяпер гэта, можна сказаць, забаўка, вясёлая завядзёнка, каб людзей добрым словам ушанаваць, бяседны стол аздобіць.* Крапіва. *Уся даваенная работа, можна сказаць, на вецер пайшла...* Краўчанка.

**М`ОЖНА Ў ПЛ`УГ ЗАПРАГ`АЦЬ** *каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. вельмі моцны, здаровы. **Сін.**: хоць у плуг запрагай *каго. Што за народ! Пабачылі, што бяру без чаргі, па тваім дакуменце, то адразу ж накінуліся на мяне, гатовыя былі разарваць: якая я, маўляў, інвалідка, мяне ў плуг запрагаць можна.* І.Капыловіч.

**М`ОЖНА ЯЗ`ЫК ЗЛАМ`АЦЬ (ПАЛАМ`АЦЬ).** *У безас. ужыв. Разм. Іран.* Цяжка вымавіць што-н. (слова, фразу і пад.). **Сін.**: язык зломіш. –– *Адкуль пісьмо? — О, язык зламаць можна! Нешта такое джык-гам-гай… — Джэсказган?! – Во-во!..* Дудараў. *А як жа нам чытаць газеты, калі там часамі аб напісанае можна язык паламаць.* Скрыган. *Калі некаторыя з гэтых слоў прамаўляюцца лёгка ці з пэўным намаганнем.., то на іншых… можна язык зламаць.* Каўрус.

**НА П`АЛЬЦАХ М`ОЖНА ПЕРАЛІЧ`ЫЦЬ** *каго, што. У безас. ужыв. Разм.* Вельмі мала. **Сін.**: з верабёў нос (у 1 знач.); з жабіны прыгаршчы *чаго*; з камароў нос (у 1 знач.); з макава зерне; кропля ў моры <*чаго*>; курам на смех (у 3 знач.); на жабін скок (у 2 знач.); на

зачы скок; на капейку; на макава зерне; на панюх табакі (у 1 знач.); на шэлег (у 1 знач.); не поле насеяна *каго*; раз-два і ўсё *каго, чаго*; як кату; <як> кот наплакаў *каго, чаго*; як старой бабе сесці *чаго. Спіша [Павалковіч], схопіць адтуль-адсюль, скампілюе і выдае за сваё. А ў нас вучоных аграномаў тут на пальцах можна пералічыць, хто яго будзе выкрываць?* Машара. *Стоячы на ганку, Харытанюк зірнуў на дзесяціпавярховы гмах. У гарадку на пальцах можна пералічыць двухпавярховыя дамы, а тут — дзесяціпавярховы.* «ЛіМ». *Механізмы, якія тады меліся на фермах, можна было пералічыць на пальцах.* Асіпенка.

**ПАСАЛІЎШЫ МОЖНА ЕСЦІ.** Гл. есці.

*МОЗГУ* • **ДА М`ОЗГУ КАСЦ`ЕЙ.** *Функц. не зам.* **1**. *Акал.* У найвышэйшай ступені, па-сапраўднаму. *Быць прынцыповым да мозгу касцей, бараніць свае прынцыпы да апошняга дыхання? Хіба гэта кепска.* Дамашэвіч.

**2.** *Акал.* Вельмі моцна, наскрозь (празябнуць, прамерзнуць; холад, вецер і пад. прабірае, пранізвае і пад.). **Сін**.: да <апошняй> ніткі; да касцей; па <самыя> вушы (у 1 знач.). *Холад пранізваў да мозгу касцей, балюча сціскаў мускулы.* Шамякін.

**3.** *Азн. Часцей ужыв. пасля наз., да якога адносіцца.* Поўнасцю перакананы, самы сапраўдны, цвёрда ўпэўнены ў чым-н. **Сін**.: з галавы да ног (у 2 знач.); ні даць ні ўзяць (у 1 знач.); чыстай вады; што ні <на> ёсць (у 1 знач.); як ёсць (у 2 знач.); як мае быць (у 2 знач.). *Як мы з ім звязаліся? Доўгая гісторыя. А чаму ў Красынях, а не на фронце, бо ў яго сваяк вельмі ўплывовы і фашыст да мозгу касцей.* Асіпенка. *Нягледзячы на графскае паходжанне, ён [Альберт Абуховіч] — дэмакрат да мозгу касцей.* Мальдзіс.

*МОЙ* • **БОЖА МОЙ.** Гл. божа.

**БОЖА <МОЙ> ЛІТАСЦІВЫ.** Гл. божа.

**НІ БОЖА МОЙ.** Гл. божа.

**<ТОЛЬКІ> ЦЕРАЗ МОЙ ТРУП.** Гл. труп.

*МОКНУЦЬ* • **М`ОКНУЦЬ У ГАР`ЭЛЦЫ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. П'янстваваць, многа і часта піць. **Сін**.: бачыць шклянога бога; браць у губу; вадзіць казу; глядзець у бутэльку; закідаць за гальштук; закідваць за каўнер; закладваць за каўнер; заліваць вочы <*чым*> (у 1 знач.); заліваць за каўнер; заліваць чарвяка; наліць горла; наступіць на корак; не прасыхаць; панюхаць корак; прамачыць горла. **Ант**.: не браць у рот *што, чаго* (у 2 знач.). *Той яму не сказаў проста ў вочы, а намякнуў, што ён, Стрынадка, мокне ў гарэлцы.., а работа быццам яму ні ішла ні ехала.* Сабаленка. *Казаў [Кароль] і Восіпу, каб выпатрабаваў з раёна ветэрынара — мо*

*паглядзеў бы. Але Восіп усё мок у гарэлцы.* Адамчык. *Лядзяш мок у гарэлцы і папікаў усіх у нявернасці.* Далідовіч.

*МОКРАГА* ● **МОКРАГА МЕСЦА НЕ ЗАСТАНЕЦЦА** *ад каго, ад чаго.* Гл. застанецца.

*МОКРАЕ* ● **МОКРАЕ МЕСЦА ЗАСТАНЕЦЦА** *ад каго, ад чаго.* Гл. месца.

**ЯК М`ОКРАЕ ГАР`ЫЦЬ.** *Акал. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзеясл.-вык. незак. тр. **1**. Вельмі марудна, павольна, не спяшаючыся (рабіць што-н.). **Сін**.: як назаўтра трэба. *Адзін ідзе як мокрае гарыць, другі бяжыць уперад без аглядкі.* Кляшторны. *Нехта коле дровы на дварэ, за гумном. — Баба, мусіць. Як мокрае гарыць. О, чуеш? — Памалу, браце, але ж спраўна. Гахкае нават.* Брыль. *Сядзець не хочацца яшчэ і таму, што зірнуць касцы з таго берага, скажуць адзін аднаму: гультаі, працуюць як мокрае гарыць.* Макарэвіч. *Кармоў — кот наплакаў, нарыхтоўка іх ідзе як мокрае гарыць.* «Полымя».

**2**. Дрэнна (жыць, весці справы і пад.). *І калгаснікі ў нас добрыя і зямля ніштаватая, а справы ідуць як мокрае гарыць...* Гурскі. *Жыў — не жыў, а так плялося неяк, гібелася... Як мокрае гарыць...* Мурашка. *Жыла баба як мокрае гарыць, а цяпер і апошні свет засланілі...* Пташнікаў. *Спытаеш пры жыццё — махне рукой: — нішто сабе, як мокрае гарыць.* Радкевіч.

*МОКРАЯ* ● **МОКРАЯ АНУЧА.** Гл.ануча.

**МОКРАЯ КУРЫЦА.** Гл. курыца.

*МОКРЫМ* ● **ВОЧЫ НА МОКРЫМ МЕСЦЫ** *ў каго.* Гл. вочы.

*МОЛАДА* ● **М`ОЛАДА-З`ЕЛЕНА.** *Часцей вык. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нявопытны, наіўны па маладосці гадоў. **Сін**.: мала кашы еў. *— Не падабаецца ён мне... — Молада-зелена, Бацька! Памыліўся ён там, на камандзе.* Брыль. *Маладосць, што ты хочаш. Молада-зелена. Дурны быў, паміж намі кажучы. Яно, каб на цяперашні розум, асцеражнейшы быў бы.* Гігевіч.

*МОЛАТАМ* ● **МІЖ (ПАМ`ІЖ) М`ОЛАТАМ І КАВ`АДЛАМ.** *Функц. не зам.* **1.** *Часцей вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. У цяжкім становішчы, калі небяспека пагражае з двух бакоў (быць, трапіць, апынуцца і пад.). **Сін**.: між двух агнёў; між сцылай і харыбдай. *Я гатовы ўзарвацца, бо стрыманасці мне не хапае, не трываюць нервы. Што тут яшчэ здарылася? — Трапілі, во што. Між молатам і кавадлам...* Быкаў. *Войска фюрэра, разгромленае на пярэднім краі, на лініях абароны, на ўмацаваных рубяжах, само апынулася паміж молатам і кавадлам. Удары з тылу вельмі ж удала спалучаліся з ударамі з фронту!* Кудраўцаў.

**2.** *Азн.* Цяжкае, небяспечнае з абодвух бакоў (становішча). *Усё тое, што нярэдка здаралася ў нашай гісторыі, значна ўскладнялася*

*становішчам між молатам і кавадлам.* Быкаў.

*МОМАНТ* ● **У <АДЗ`ІН> М`ОМАНТ.** *Акал. Разм.* Часцей ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр. Адразу ж, імгненна, вельмі хутка (зрабіць што-н., адбылося што-н.). **Сін**.: у адзін мах; у адзін міг; у <адну> мінуту; у імгненне вока; у міг вока; у момант вока; як бач; як бачыш (у 1 знач.); як вокам зглядзець (у 1 знач.); як га; як слова сказаць; як стой. *У момант змераў ён [Сяргей] вачыма адлегласць да яру.* Колас. *Бывала так, што бацька адным якім-небудзь учынкам у адзін момант разбураў усё тое, чаго дамагалася маці.* Чорны. *Пасля нашага адказу ён [шафёр] у адзін момант перамяніўся.* Лынькоў. *Мы наборшчыкі, наша справа вядомая — давайце арыгіналы, і мы ў момант набяром іх.* Сабаленка.

**У М`ОМАНТ В`ОКА.** *Акал. Разм.* Часцей ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр. Адразу ж, вельмі хутка, імгненна (зрабіць што-н.). **Сін**.: у адзін мах; у адзін міг; у <адзін> момант; у <адну> мінуту; у імгненне вока; у міг вока; як бач; як бачыш (у 1 знач.); як вокам зглядзець (у 1 знач.); як га; як слова сказаць; як стой. *Не чакаючы новага нападу і адчуўшы, што справа абарочваецца ў нядобры бок, стралою махнуў дзед Талаш у густы хмызняк і знік з вачэй у момант вока.* Колас. *Дзяўчаткі пайшлі, але Серж у момант вока перакруціўся на адной назе і даў самай меншай дзяўчынцы такую пстрычку ў лоб, што тая крыкнула і моцна заплакала.* Чорны.

*МОРА* ● **З ДНА МОРА.** Гл. дна.

**М`ОРА ПА КАЛ`ЕНА** *каму. У безас. ужыв. Разм.* Нічога не страшна, нічога не значыць, усё хоць бы што. **Сін**.: сам чорт не брат *каму. Задурыў галаву, — вот цяпер ён пан! Маўляў, і мора яму па калена.* Дунін-Марцінкевіч. *Сабраліся для таго, каб справіць маёўку, а на маёўцы падпілі... А падпіўшым людзям і мора па калена.* Колас. *Некаторыя лічылі, што галоўнае — разбурыць усё старое, што напрыдумлялі паны афіцэры, а тады, маўляў, нам мора па калена.* Шамякін.

**М`ОРА РАЗЛІЎН`ОЕ.** *Мн. не ўжыв. Разм.* **1.** *У ролі розных чл. ск.* Гулянка з выпіўкай, п'янка. *[Валянцін] баяўся мора разліўнога і гэтых заўсёдных уговораў у кампаніі — чаркі Валянцін не любіў.* Б.Стральцоў.

**2.** *чаго. У безас. ужыв.* Вельмі многа, у вялікай колькасці. Звычайна пра віно, гарэлку і пад. **Сін**.: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да

халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. Я там прыбірала ў дзесятым цэху. Там жа спірту мора разлійное...* «Маладосць». *Праз гадзіну на вогнішчах смажыліся вялізныя кавалкі ялавічыны, круціліся на ражнах цэлыя авечкі. Разлійное мора віна.* Караткевіч.

**СА ДНА МОРА.** Гл. дна.

**ЧАКАЦЬ З МОРА ПАГОДЫ.** Гл. чакаць.

*МОРДУ* • **АДВАРОЧВАЦЬ МОРДУ** *<ад каго, ад чаго>*. Гл. адварочваць.

*МОРЫ* • **КРОПЛЯ Ў МОРЫ** *<чаго>*. Гл. кропля.

**ЯК У МОРЫ КАРАБЛІ** *разысціся* і пад. Гл. караблі.

*МОСТ* • **М`ОСТ (М`ОСЦІК, МАСТ`ОК) ПЕРАК`ІДВАЕЦЦА (ПЕРАК`ІНУЎСЯ, ПЕРАК`ІНЕЦЦА)** *паміж чым, ад чаго да чаго. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Што-н. звязваецца, злучаецца ў адно цэлае. *І неяк міжвольна перакідваецца мосцік паміж учарашнім днём і заўтрашнім, і тады святлее на душы, хочацца ўстаць з месца і ісці, ісці...* Шахавец. *Праўда, у асобных выпадках паэт адкрыта падкрэсліваў павучальнасць народнага твора, дапісваючы спецыяльныя, чыста аўтарскія дадаткі, у якіх перакідваецца своеасаблівы мосцік ад казачнага сюжэта да сучаснай рэчаіснасці.* Бугаёў. — *Пачнём, таварышы... Хто першы? — Напэўна, старшы інспектар Дзюба, — прапанаваў Корзун. — Раптам ад яго версіі да маёй масток перакінецца.* Шыцік.

**ПЕРАКІДАЦЬ МОСТ.** Гл. перакідаць.

**ПЕРАКІДНЫ МОСТ** *да чаго.* Гл. масток.

*МОСТА* • **ПРОСТА З МОСТА.** Гл. проста.

*МОСЦЕ* • **ЯК ДЗІРКА Ў МОСЦЕ.** Гл. дзірка.

*МОСЦІК* • **МОСЦІК ПЕРАКІДВАЕЦЦА** *паміж чым, ад чаго да чаго.* Гл. мост.

**ПЕРАКІДАЦЬ МОСЦІК.** Гл. перакідаць.

**ПЕРАКІДНЫ МОСЦІК** *да чаго.* Гл. масток.

*МОХАМ* ● **АБРАСТАЦЬ МОХАМ.** Гл. абрастаць.

**ДУША МОХАМ АБРАСЛА** *ў каго.* Гл. душа.

*МОЦ* ● **НА ПОЎНУЮ МОЦ.** Гл. сілу.

**НА ЎС`Ю М`ОЦ (С`ІЛУ).** *Акал. Разм.* **1**. З вялікім намаганнем, інтэнсіўнасцю (рабіць што-н.). **Сін**.: аж пуп трашчыць; ва ўсе лапаткі (у 2 знач.); высалапіўшы язык (у 3 знач.); з апошніх сіл; з апошняга; з усёй сілы (у 1 знач.); з усіх жыл (у 1 знач.); з усіх чатырох (у 2 знач.), колькі <было> сілы (у 1 знач.); на поўную сілу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 1 знач.). *У гэты час польская нацыяналістычная агітацыя развінулася на ўсю моц.* Гартны. *Цяжкія гады перажыў наш беларускі народ. Але, нягледзячы на гора, народ на ўсю сілу ўзяўся за аднаўленне сваёй рэспублікі.* Броўка.

**2**. Вельмі хутка, з вялікай хуткасцю (бегчы, імчацца і пад.). **Сін**.: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы*; без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.), з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсіх парах; на ўсіх парусах; чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант**.: як чарапаха. *Катэр імчаў на ўсю сілу, разразаючы суровыя хвалі.* Каваль. *На ўсю моц Міхед спяшаўся...* Астрэйка.

**3**. Вельмі моцна (крычаць, галасіць і пад.). **Сін**.: благім матам; з усіх жыл (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 3 знач.); на поўную сілу (у 3 знач.); на поўныя грудзі (у 2 знач.); на ўвесь голас (у 1 знач.); на ўвесь свет (у 1 знач.); на ўсе грудзі (у 2 знач.); на ўсе застаўкі (у 1 знач.); на ўсё горла; на ўсю глотку; на ўсю іванаўскую (у 1 знач.); немым голасам; не сваім голасам; што ёсць духу (у 2 знач.); што ёсць сілы (у 3 знач.); <як> іерыхонская труба (у 2 знач.); як недарэзаны; як рэзаны. *За дзвярыма пакоя машыністак-радыстак на ўсю сілу гаварыў радыёпрыёмнік.* Сабаленка. *Мінуў час абеду, а званы ўсё галасілі на ўсю моц.* Карпюк.

*МОЦНЫ* ● **З`АДНІМ Р`ОЗУМАМ М`ОЦНЫ (ХІТРЫ).** *Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Няздольны своечасова прыняць патрэбнае рашэнне. *Не, я зусім не так сябе з ім трымала. Заднім розумам моцная, хоць пабяжы ды дагані тую «Волгу», пачні ўсю размову спачатку.* Арабей. — *Але мужык заўсёды заднім розумам хітры,*

*праўда, Шчасны? — звярнуўся да вартаўніка Войцік.* Машара.

**МОЦНЫ АРЭШАК**. Гл. арэшак.

**МОЦНЫ ПОЛ.** Гл. пол.

*МОЦЫ* ● **З УСЁЙ МОЦЫ.** Гл. сілы.

**КОЛЬКІ <БЫЛО> МОЦЫ.** Гл. было.

**НАБІРАЦЦА МОЦЫ.** Гл. набірацца.

**ШТО ЁСЦЬ МОЦЫ.** Гл. сілы.

*МРОЯ* ● **МРОЯ СІВОЙ КАБЫЛЫ.** Гл. трызненне.

*МУДРЫКІ* ● **М`УДРЫКІ НА Х`ІТРЫКІ**. *Часцей дзейн. Разм.* Супрацьдзеянне на чый-н. падман аналагічнымі сродкамі. *Сваю долю грошыкаў ад крадзяжоў пад маім носам я мець мушу, каб невядома як ім таго не хацелася, сабакам паганым! Няхай толькі спрабуюць яны круціць тут мне, дык я ім цэлае кіно зраблю… Мудрыкі на хітрыкі — я, зараза, лепшы за вас злодзей.* Яновіч. *Думаў, што яго ніхто не раскусіць, а тут мудрыкі на хітрыкі выйшлі.* Юрчанка.

*МУЗЕЙНАЯ* ● **МУЗЕЙНАЯ РЭДКАСЦЬ.** Гл. рэдкасць.

*МУЗЫКАЙ* ● **З М`УЗЫКАЙ** <u>паміраць, гінуць, жыць.</u> *Акал. Разм.* Смела, з адчуваннем уласнай годнасці. *— Мы не баязліўцы, — бадзёра сказаў Чуб, хапаючы вінтоўку. — Паміраць, дык з музыкай! — І моцна вылаяўся.* Шамякін. *Дачакацца, калі прыйдуць [ворагі], і пусціць у ход пісталет? Ці самому выйсці з пісталетам на вуліцу і загінуць з музыкай?* Быкаў. *А як пасталеў Жан за гэты год! Аднак і са сталасцю не згубіў ён сваёй весялосці і бадзёрасці. Калі ўжо жыць, дык — з музыкай, і паміраць — з музыкай, каб ворагам не па сабе стала.* Новікаў.

*МУКІ* ● **ТАНТ`АЛАВЫ М`УКІ (ПАК`УТЫ).** *Адз. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Нясцерпнае мучэнне ад усведамлення блізкасці жаданай мэты і немагчымасці дасягнуць яе. *Я сёння ведаю, што такое танталавы мукі, але якія гэта мукі ў параўнанні з тым, што зведалі мы ў кабінеце пракурора.* Казько. *Думаеш, я не бачыла тваіх танталавых пакут? Бачыла. Але, думаю, маўчаць буду.* Ермаловіч. *Васіль і ўявіць сабе не мог, якія танталавы пакуты трэба вынесці, перш чым трапіць на тэлеэкран.* Блакіт.

*МУКОЙ* ● **І З МУК`ОЙ І НЕ П`ЫЛЬНА.** *Акал. ці ў безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Выгадна, з прыбыткам, які лёгка дастаецца. **Сін**.: і дома і замужам. *А Раман, аказваецца, хітры.. Разумее, што сваволле можа плачам скончыцца. Таму нейкага татарына хоча падставіць, а сам пры ім — як кажуць, і з мукой і не пыльна.* Чыгрынаў.

*МУКУ* ● **ТАЎКАЧ МУКУ ПАКАЖА!** Гл. таўкач.

**ЯК МУКУ ПРАДАЎШЫ.** Гл. прадаўшы.

*МУЛКА* ● **МЯККА СЦЕЛЕ <ДЫ МУЛКА СПАЦЬ>.** Гл. сцеле.

*МУЛЯЦЬ* ● **М`УЛЯЦЬ В`ОЧЫ (В`ОКА)** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці канкр. прадмета. Дакучаць, назаляць пастаяннай прысутнасцю, наяўнасцю. **Сін**.: блытацца пад нагамі *ў каго*; мазоліць вочы *каму*; набіваць аскому *каму* (у 1 знач.); навязнуць у зубах *каму. Іра пайшла танцаваць, а Валік, каб нікому не муляць вочы, пасунуўся ў фае.* Радкевіч. *Хіба то піла ў вас, то ж абмылак нейкі. Дык мы яе занеслі ды ў раўчук кінулі, каб яна і вачэй нам не муляла.* Сабаленка. *Не муляюць больш вока і замшэлыя бёрны, працятыя ледзь не наскрозь доўгімі трэшчынамі.* Б.Стральцоў. **ЗАМУЛЯЦЬ ВОЧЫ (ВОКА)** *каму. Зак. — Няўжо ізноў мой сынок замуляў людзям вочы? — зласліва запытала яна [Стэпа] у суседкі.* Гартны.

*МУНДЗІРАХ* ● <u>*Бульба*</u> **У МУНДЗ`ІРАХ.** *Азн. Разм.* Нячышчаная, у лупінах. Пра вараную ці печаную бульбу. *Ставіла на ім [стале], бывала, маці, у мундзірах бульбы чыгунок.* Бялевіч. *Толя садзіцца за стол на лаву, падсоўвае бліжэй чыгунок, бярэ па бульбіне. Бульба ў мундзірах.* Паўлаў. *На вячэру была льняная мачанка і бульба ў мундзірах.* Парахневіч.

*МУР* ● **НІ (АНІ) М`УР-М`УР.** *У знач. дзеясл. вык. Прast.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Абсалютна нічога не гаварыць, не расказваць каму-н. **Сін**.: ні гу-гу (у 1 знач.); ні гуку (у 1 знач.); ні слова (у 1 знач.). *[Ніна:] Трэба зараз жа хлопцам з трэцяй брыгады сказаць... [Кудравец:] Глядзі, Ніна. Нікому ні мур-мур.* Кучар. *Семнаццаць гадочкаў [Котлуб] выседзеў [у падпечку]. З яго сваяўства ніхто ні мур-мур, так і не прагаварыліся...* Міська. *Андрэйка добра зразумеў, што гэта значыць: «ані мур-мур» — трэба маўчаць, як вады ў рот набраўшы.* Бядуля.

*МУРАВАНАЙ* ● **ЯК ЗА МУРАВАНАЙ СЦЯНОЙ.** Гл. сцяной.

*МУРАШКІ* ● **МУР`АШКІ Б`ЕГАЮЦЬ (ПРАБЯГ`АЮЦЬ, БЯГ`УЦЬ) ПА Ц`ЕЛЕ (ПА СП`ІНЕ, ПА СК`УРЫ)** *у каго, каго, чыім. Незак. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. адчувае дрыжыкі ад моцнага страху, хвалявання і пад. **Сін**.: аслаблі гайкі *ў каго, чые* (у 1 знач.); валасы становяцца дыбам *у каго*; вочы на лоб лезуць *у каго* (у 2 знач.); душа ў пятках *у каго, чыя*; душа ў пяткі <схавалася> *у каго*; калені дрыжаць *у каго*; кроў ледзянее *ў каго*; кроў у жылах стыне *ў каго*; мароз па скуры <прабягае> *у каго, каго, чыёй*; неба з аўчынку здаецца *каму*; паджылкі трасуцца *ў каго*; скура шэрхне *на кім, у каго*; сэрца абрываецца *ў каго, чыё*; сэрца ледзянее *ў каго*; у пяткі кальнула *каму, каго* (у 1 знач.); <усе> блохі падохлі *ў каго. Хапіла, усяго хапіла. Успомніш — мурашкі па целе бегаюць.* Сачанка. *Аж мурашкі*

*прабягаюць у яго па спіне, калі ён думае, што яго чакае наперадзе.* Дамашэвіч. *[Скіба:] Жарты твае невясёлыя, чалавеча. Ад іх мурашкі па целе бягуць.* Крапіва.

**МУР`АШКІ ЗАБ`ЕГАЛІ (ПАБ`ЕГЛІ, ЗАХАДЗ`ІЛІ, ПАЙШЛ`І) ПА Ц`ЕЛЕ (ПА СП`ІНЕ, ПА СК`УРЫ)** *у каго, каго, чыім. Зак. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. пачаў адчуваць дрыжыкі ад моцнага страху, хвалявання і пад. **Сін.:** скура пашэрхла *ў каго. Яна [малпа] вельмі сярдзітая і не любіць, каб хто другі раз прыходзіў глядзець на яе, а я ўжо раз быў. Праўда, спярша і па нашым целе забегалі мурашкі, але – – было не было…* Ядвігін Ш. *Часавы.., усадзіўшы з размаху штык у зямлю, сказаў: — Вось што будзе з вамі… — такі быў адказ. Ад гэтага жэсту ў многіх забегалі мурашкі па целе і стала цяжка дыхаць.* Лынькоў. *Казік адчуваў, што ў той момант па спіне яго забегалі мурашкі.* Чарнышэвіч. *У маладога чалавека неўспадзеўкі ажно мурашкі па скуры забегалі.* Якавенка. *Тады на парозе паявілася белая абледзянелая здань. У Міці па целе пабеглі мурашкі.* Навуменка. *«Што за праява? — падумаў Сяргей і пачуў, як па яго спіне захадзілі мурашкі. — Напэўна замыслілі штось і, відаць, палеглі на зямлю».* Колас. *[Дубавец:] Ты хораша гаворыш, Бора. У мяне, ведаеш, нават мурашкі пайшлі па целе…* Крапіва.

*МУТНАЙ* ● **ЛАВІЦЬ РЫБУ Ў МУТНАЙ ВАДЗЕ.** Гл. лавіць.

**ЛОЎЛЯ РЫБКІ Ў МУТНАЙ ВАДЗЕ.** Гл. лоўля.

*МУХ* ● **АДНЫМ МАХАМ СЕМЯРЫХ МУХ ЗАБІЯХАМ.** Гл. забіяхам.

**ДА Б`ЕЛЫХ М`УХ.** *Акал. Разм.* Да першага снегу, да халадоў (рабіць што-н.). *Сюды мы прыехалі не на дзень-два і нават не на тыдзень, а пракантуемся, трэба думаць, хутчэй за ўсё да белых мух.* Масарэнка. *[Раман] заспяшаўся на гарышча, дзе з вясны і да белых мух спіць на тапчане пад ватнай коўдрай і старэнькім, з'едзеным моллю, кажухом.* Калодзежны.

**ЗУХ З КОЛАМ ДА МУХ.** Гл. зух.

**ЗУХ СУПРОЦЬ МУХ.** Гл. зух.

**ЛАВІЦЬ МУХ.** Гл. лавіць.

**МЕЦЬ МУХ У НОСЕ.** Гл. мець.

**МУХ ГАНЯЦЬ** *каму.* Гл. ганяць.

*МУХА* ● **БЛЯХА-МУХА.** Гл. бляха.

**МУХА Ў НОСЕ.** Гл. мухі.

**ШАЛ`ЁНАЯ М`УХА ЎКУС`ІЛА <ЗА ВУХА>** *каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н., нечакана раззлаваўшыся, занадта гарачыцца. *— Што — не разумею?! — выгукнуў бацька, наліваючыся крывёю. Здаецца, ніколі такі злосны не быў. Нібы шалёная муха ўкусіла яго за вуха.* Далідовіч. *У гэты час пажарнікі наладзілі начныя манеўры.. І*

*вось тут мяне нейкая шалёная муха ўкусіла. Я прапанаваў паказальнае тушэнне пажару правесці на доме № 5.* Мрый. *Была [Іра] такая ласкавая, вясёлая, заўсёды радая кожнаму яго званку, кожнай сустрэчы, нават слову. І раптам... Нібы яе падмянілі, муха шалёная ўкусіла...* Сачанка.

**ЯК`АЯ М`УХА ЎКУС`ІЛА** *каго. Часцей у знач. пытальнага ск. Разм.* Што здарылася з кім-н., як усё гэта растлумачыць? Выказванне здзіўлення з прычыны незразумелых паводзін каго-н. *[Мікола:] Што сталася, Насця? Якая цябе муха ўкусіла?* Крапіва. — *Што ты такі сёння? — не зразумеў Валодзя, што зрабілася з сябрам. — Якая муха цябе ўкусіла?* Арабей. *Якая муха ўкусіла жанчыну, што так разлямантавалася на ўвесь дом?* Новікаў. *З чаго ты ўсё гэта ўзяла, якая цябе муха ўкусіла сягоння?* Гігевіч.

**ЯК С`ОННАЯ М`УХА.** *Адз. і мн. Разм.* **1**. *Акал.* Вяла, павольна, без усякага жадання (рабіць што-н.). *Шавелішся як сонная муха, рухавей.. [трэба] быць.* Юрчанка.

**2**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вялы, марудны, няжвавы. *Трэба акапацца як мае быць — кожнаму па ячэйцы ў рост, калі б толькі быў час. А так, вядома, ноч пракалупаюцца ў зямлі, а заўтра ў баі будуць як сонныя мухі — што тады з іх возьмеш?* Быкаў.

**ЯК (ШТО) САБ`АКУ М`УХА** *для каго, каму. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн., выраж. займ. *гэта* ці наз. са знач. ежы, пітва. Нічога не значыць для каго-н., далёка не дастаткова каму-н. — *Вось што, Валодзя. П'яным да мяне не прыходзіць. — Хіба я п'яны. Ты што? Я кульнуў сто грамаў. Гэта для мяне што сабаку муха. Я ж не валяюся.* Левановіч. — *Учора ты перабраў троху. — Ды не, Марынка. У мяне шматгадовая трэніроўка. Паўлітэрка пры добрай закусі што сабаку муха.* «Полымя».

*МУХАЙ* ● **ПАД М`УХАЙ.** *Акал. і вык. Разм. Неадабр.* У стане ап'янення. **Сін**.: на брывах; на вушах; на падпітку; на ўзводзе; пад газам; пад градусам; пад хмяльком; пад чаркай; пад шафэ. *Набажэнства ў царкве ён [бацька Уладзімер] заўсёды правіў пад мухаю.* Колас. *Сяўрук расказаў, што бацьку свайго даўно пахаваў — папаўся стары пад цягнік на чыгунцы, быўшы «пад мухаю», вечная памяць.* Гарэцкі. *Усе зразумелі, што Чаравака пад мухай...* Пестрак. *Старэйшы вахман.. амаль штодня быў «пад мухай» і пра каманду мала дбаў, спадзеючыся на другога вахмана.* Брыль.

*МУХАМІ* ● **З М`УХАМІ Ў Н`ОСЕ.** *Вык. і азн. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі ўпарты, капрызны, наравісты. **Сін**.: крывое кола. *На што ўжо Круглоў з мухамі ў носе, а супроць Сцяпана ці на яго што — не, ніколі.* Гіль. *Сябравала [Аксана] з адным хлопцам*

*яшчэ ў школе. Ён паступіў у ваеннае вучылішча, потым з-за нечага пасварыліся. Не сказала з-за чаго, мабыць, яна вінаватая, бо дзеўка з мухамі ў носе.* Левановіч. *Творчымі справамі [Раман Фёдаравіч] займаўся мала — у асноўным адказны сакратар, чалавек самаўпэўнены, з мухамі ў носе.* Блакіт.

*МУХІ* ● **Б`ЕЛЫЯ М`УХІ.** *Адз. не ўжыв. Часцей дзейн. Разм.* Снег, сняжынкі. Пра снег, што падае. *У бляску вакон відаць, як лётаюць, мітусяцца, нібы скачуць нейкі невядомы танец, белыя мухі — кволыя і пяшчотныя.* Крапіва. *Закруціліся ў змрочным паветры белыя мухі, густа пайшоў снег.* Самуйлёнак. *[Васіль прыпыніўся] на гары, гледзячы на дарогу перад сабой, над якой віліся першыя белыя мухі.* Мележ.

**М`УХІ Д`ОХНУЦЬ (Д`ОХЛІ, ПАД`ОХЛІ).** *У безас. ужыв. Разм. Іран.* Нясцерпна сумна. *Студэнты не надта хваляць Ерусалімчыка. На экзаменах добры, лішне не прыдзіраецца, але чытае лекцыі сумна, нецікава, мухі дохнуць на яго лекцыях.* Навуменка. *Вакол іх мухі дохлі ад нуды і абыякавасці, затое гэткія працаўнікі лічыліся сумленнымі і дысцыплінаванымі.* Радкевіч. *Калі Рагойша гаворыць, што фельетон сумны, то ад яго артыкула, напэўна, «падохлі мухі».* Шамякін.

**М`УХІ (М`УХА) У Н`ОСЕ.** *Праст. Неадабр.* **1**. *у каго. У безас. ужыв.* Хто-н. вельмі ўпарты, капрызны, наравісты. *Як што не па іх, дык адразу сімпатычны такі скандальчык... Кінь, Андрэйка, што зробіш, калі ў іх мухі ў носе.* Караткевіч. — *Сёння нават і гаварыць не далася... — І, паціснуўшы плячыма, [Анупрэй] дадаваў: — Што ж, мухі ў носе...* Пестрак.

**2**. *У ролі розн. чл. ск.* Злосць, непрыязнасць. *Усчаў сварку не ён. І намеру такога не меў. У яе раптам мухі ў носе паявіліся.* Гіль. *[Брат] хоць быў з фантазіяіі вялікай, але... Ён найбольш любіў паноў [маёнткавых], а на гарадскіх была ў яго муха ў носе...* Чорны.

**МУХІ НЕ ПАКРЫЎДЗІЦЬ.** Гл. пакрыўдзіць.

**РАБІЦЬ З МУХІ СЛАНА.** Гл. рабіць.

**ЯД`УЦЬ М`УХІ З КАМАР`АМІ** *каго. Выкл. Праст.* Воклiч незадавальнення, здзіўлення, захаплення і пад. — *Я вас люблю! — казаў Хадыка, — і сам я — мінскі гарамыка; пасябраваць хачу я з вамі, ядзяць вас мухі з камарамі!* Колас. — *Вашу біяграфію, Міхась Ціханавіч, яны ўсе ведаюць! — з гонарам за сваіх вучняў паўтарае Антон Сцяпанавіч. У любым іншым выпадку ён абавязкова дадаў бы яшчэ: «Ядзяць іх мухі з камарамі».* Васілевіч. *Сядзеў ён [гаспадар] у передку з доўгай бярозавай укруткай, якой часта сцябаў кабылу па рэбрах, і прыгаворваў: — Но-о, ядуць цябе мухі з камарамі!..* Сіняўскі.

<u>Мруць, гінуць, валяцца</u> **ЯК М`УХІ.** *Акал. Разм.* У вельмі вялікай

колькасці. Пра людзей і адуш. прадметы. *А было ў тыя часіны цёмна, бы ў магіле, людзі гінулі як мухі ці, як здань, блудзілі.* Купала. *У нас тут людзі мерлі з голаду як мухі, а за што...* Гарэцкі. *Пухнуць людзі з голаду, мруць як мухі. І чым далей, тым горай: няма ратунку ад змея.* Якімовіч. *Тут пасля вайны ад менінгіту валіліся коні як мухі...* Пташнікаў.

**ЯК М`УХІ НА М`ЁД.** *Акал. Разм.* З вялікай ахвотай, неадчэпна (лезці, ліпнуць і пад.). — *Значыць, зноў біцца? — Адбівацца трэба. Лезуць як мухі на мёд. Будзем неяк бараніцца, а там і па загрыўку дамо.* Грахоўскі. *Лёгка завесці знаёмства, калі маеш чым пачаставаць, самі ліпнуць як мухі на мёд.* Шамякін. *Як мухі на мёд сюды злятаюцца спекулянты, перакупшчыкі.* «Вожык».

*МУЦІЦЬ* ● **МУЦІЦЬ ВАДУ.** Гл. каламуціць.

**МУЦ`ІЦЬ ДУШ`У** *каму, каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Выклікаць душэўныя пакуты. **Сін**.: выварочваць душу *чыю, каго*; вярэдзіць душу *каму, чыю*; вярэдзіць рану *каму, чыю*; пераварочваць <усё> нутро *ў каго*; пераварочваць <усю> душу *чыю, каму, каго*; труціць душу *каму*. *А нудота гэта — што яна паможа? Толькі душу муціць.* Колас. **ЗАМУЦІЦЬ ДУШУ** *каму, каго. Зак. Канфлікт выступае як страшэнная несправядлівасць, якая замуціла душу юнака...* Калеснік. *— А дзе ж Алёнка?.. — Спіць. Усю ноч праседзелі з ёю на беразе пад Крутаярскам. Ля вогнішча. З Кулашам. — Душы вам Кулаш не замуціў?* Карамазаў.

**МУЦ`ІЦЬ (КАЛАМ`УЦІЦЬ) ГАЛАВ`У (ГАЛ`ОВЫ)** *каму. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знарок уводзіць у зман, падманваць каго-н. **Сін**.: абводзіць вакол пальца *каго*; абуваць у лапці *каго*; бакі забіваць *каму*, браць на арапа *каго*; браць на бога *каго*; браць на вудачку *каго*; браць на пушку *каго*; вадзіць за нос *каго*; вешаць лапшу <на вушы> *каму*; віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць у поле *каго*; гнуць дугі; гуляць у ката і мышку; дурыць галаву *каму* (у 1 знач.); задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); замазваць вочы *каму*; замыльваць вочы *каму*; запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму*, корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); настаўляць акуляры *каму*, прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму*, пускаць пыл у вочы *каму*; сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 1 знач.); туманіць вочы *каму*; туманіць галаву *каму*. *Подлы здраднік! Напяліў чужы мундзір і муціць людзям галовы.* Прокша. *Капітан прызыўной камісіі кпіў: «Паглядзім, ці захочацца цяпер Куну каламуціць галовы людзям сваімі бунтарскімі ідэямі?»* «Звязда».

*МУШКУ* ● **БРАЦЬ НА МУШКУ** *каго, што.* Гл. браць.
*МЫЛА* ● **БЕЗ МЫЛА ЛЕЗЦІ.** Гл. лезці.

**З'ЕХАЦЬ НА МЫЛА.** Гл. з'ехаць.

**МЯНЯЦЬ ШЫЛА НА МЫЛА.** Гл. мяняць.

**НА М`ЫЛА!** *Выкл. Праст. Груб.* Прэч, вон! Патрабаванне выгнаць, прагнаць каго-н., бо не спраўляецца са сваімі абавязкамі. *Слова далі падпалкоўніку Сторажаву, які не паспеў і некалькіх слоў сказаць, як салдаты з гневам закрычалі: — Далоў! — Старарэжымнік! — На мыла!* Гурскі. *Зноў суддзя нічога не бачыць — крот сляпы. Правільна свішчуць на трыбунах — на мыла яго!* Радкевіч. — *Работы? Шукай, брат, сам. Сам турбуйся аб сабе... — Значыць, што ж, на мыла... Шалюта быў патрэбен, каб масты ўзрываць...* Дуброўскі.

**ЯК МЫЛА З'ЕЎШЫ.** Гл. з'еўшы.
*МЫЛЕ* ● **У М`ЫЛЕ.** *У знач. вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Змучаны напружанай работай. *[Сухадольскі:] Спакойнае ў вас жыццё. Аўрал, усе ў мыле, а вы займаецеся вывучэннем матэрыялу.* Крапіва. *З рэпрадуктара голас, некалькі громкі: «Пачапіў старшыні шпоры? Цяпер усе ў мыле будзем...»* Макаёнак.

**ЯК ЗАБЛОЦКІ НА МЫЛЕ.** Гл. заблоцкі.
*МЫЛІЦЬ* ● **М`ЫЛІЦЬ ГАЛАВ`У** *каму. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна прабіраць каго-н., выгаворваць з дакорам. **Сін**.: браць пад абстрэл *каго, што*; браць у абарот *каго* (у 2 знач.); браць у пераплёт *каго* (у 2 знач.); браць у работу *каго* (у 2 знач.); браць у шоры *каго* (у 2 знач.); выганяць матыліцу *з каго*; выціскаць пот *з каго* (у 2 знач.); даваць гарту *каму* (у 1 знач.); даваць гонку *каму*; даваць дыхту *каму* (у 1 знач.); даваць жару *каму* (у 1 знач.); даваць перцу *каму* (у 1 знач.); даваць піць *каму*; даваць прыкурыць *каму* (у 1 знач.); даваць пытлю *каму* (у 1 знач.); даваць у косці *каму* (у 1 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 1 знач.); даваць чосу *каму* (у 1 знач.); задаваць пары *каму*, здымаць стружку *з каго*; мыліць шыю *каму* (у 2 знач.); накруціць хвост *каму*; паддаваць жару *каму* (у 1 знач.); па сцяне размазваць *каго*; прадзіраць з пясочкам *каго*; спусціць скуру *з каго* (у 2 знач.); усыпаць перцу *каму*. *[Карнач:] Макаеду ты часта мыліш галаву, ад гэтага ён палысеў.* Шамякін. *Здаралася, што за хранічныя няўпраўкі ў развіцці эканомікі гаспадаркі дырэктару базы мылілі галаву.* «Вожык». **НАМЫЛІЦЬ ГАЛАВУ** *каму. Зак. Бывала, у нас, на Кубані, калі жніво, камбайн пастаіць у стэпе гадзіну, то таму камбайнеру галаву адразу намыляць. А тут!..* Мележ.

**М`ЫЛІЦЬ (НАМ`ЫЛЬВАЦЬ) Ш`ЫЮ (К`АРАК)** *каму. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Біць каго-н., сурова распраўляцца з кім-н. **Сін**.: даваць гарту *каму* (у 2 знач.); даваць

дыхту *каму* (у 2 знач.); даваць жару (у 2 знач.); даваць копаці *каму*; даваць перцу *каму* (у 2 знач.); даваць прыкурыць *каму* (у 2 знач.); даваць пытлю *каму* (у 2 знач.); даваць у косці *каму* (у 2 знач.); даваць у скуру *каму*; даваць чапаласу *каму* (у 2 знач.); даваць чосу *каму* (у 2 знач.); даць па зубах *каму*; даць па карку *каму*; задаць фефару *каму*; намяць бакі *каму*; прапісаць іжыцу *каму*; спусціць скуру *з каго* (у 1 знач.); усыпаць гарачых *каму*; чартоў ганяць. *Яны — душа «ізаляцыйкі» і ў рукі гэтакай шпаны даюць нявольнікаў паны, ламаць ім рэбры, мыліць шыйкі.* Колас. **НАМЫЛІЦЬ ШЫЮ (КАРАК)** *каму. Зак. Каб я дараваў? Каб я гэта... дык я ж яму, гаду, адразу так шыю намылю, што не дачакаецца і водпуску.* Лынькоў.

**2**. Моцна прабіраць каго-н., строга выгаворваць. **Сін**.: браць пад абстрэл *каго, што*; браць у абарот *каго* (у 2 знач.); браць у пераплёт *каго* (у 2 знач.), браць у работу *каго* (у 2 знач.); браць у шоры *каго* (у 2 знач.); выганяць матыліцу *з каго*; выціскаць пот *з каго* (у 2 знач.); даваць гарту *каму* (у 1 знач.); даваць гонку *каму*; даваць дыхту *каму* (у 1 знач.); даваць жару *каму* (у 1 знач.); даваць перцу *каму* (у 1 знач.); даваць піць *каму*; даваць прыкурыць *каму* (у 1 знач.); даваць пытлю *каму* (у 1 знач.); даваць у косці *каму* (у 1 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 1 знач.); даваць чосу *каму* (у 1 знач.); задаваць пары *каму*; здымаць стружку *з каго*; мыліць галаву *каму*, накруціць хвост *каму*; паддаваць жару *каму* (у 1 знач.); прадзіраць з пясочкам *каго*; спусціць скуру *з каго* (у 2 знач.); усыпаць перцу *каму*. *Сярод іх [махляроў] быў і сёй-той з абласнога начальства, таму на першым часе шыю мылілі рэдактару за тое, што пусціў матэрыял у друк.* А.Жук. *Справы ў цэху, які ўзначальвае Панасюк, ніколечкі не лепшаюць, хаця ён, небарака, і круціцца, нібы тая вавёрка ў коле. На шматлікіх нарадах і сходах яму цяпер рэгулярна як след намыльваюць шыю.* Лазуркін. **НАМЫЛІЦЬ ШЫЮ (КАРАК)** *каму. Зак. Лягчэй труслівоаму рэдактару пуд солі з'есці, перахварэць на тыфус ці дызентэрыю, чым для сатыры даць у друку месца, «бо — чаго добрага — яшчэ намыляць шыю».* Э.Валасевіч. *— Я з ім яшчэ пагавару, — падумаў ён [Сяргей Сяргеевіч] пра Харытончыка, — я яму намылю карак.* Асіпенка. *На гэты раз Косця і Генрых, якія добраахвотна шэфствавалі над Славікам, добра такі намылілі карак яму.* Шамякін.

*МЫЛЬНАЯ* ● **МЫЛЬНАЯ БУРБАЛКА.** Гл. бурбалка.

**ЯК МЫЛЬНАЯ БУРБАЛКА.** Гл. бурбалка.

*МЫЛЬНЫ* ● **МЫЛЬНЫ ПУЗЫР.** Гл. бурбалка.

**ЯК МЫЛЬНЫ ПУЗЫР.** Гл. бурбалка.

*МЫСЛЯЙ* ● **РАСЦЯКАЦЦА МЫСЛЯЙ ПА ДРЭВЕ.** Гл. расцякацца.

*МЫЦЬ* ● **М`ЫЦЬ (АБМЫВ`АЦЬ, ПЕРАМЫВ`АЦЬ) ЯЗЫК`ОМ**

**(ЯЗЫК`А́МІ)** *каго, што. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб (звычайна жанчын). Абгаворваць, бэсціць. **Сін**.: апалосквацъ косці *чые, каго* (у 1 знач.); малоць языком (у 2 знач.); мянціць языком; перабіраць <усе> костачкі *чые, каго, каму*; перамываць костачкі *чые, каго, каму*; часаць языком (у 2 знач.). *Кожнай гаспадыні не хочацца, каб суседкі мылі яе языкамі.* Брыль. *«Пільнаваў бы лепш сваю падлу, чымся людзей языком мыць...» — падумаў ён [Боганчык] пра Махорку.* Пташнікаў. *Вясковыя жанчыны абмывалі яе [Ганну] языкамі як хацелі...* Дайліда. **АБМЫЦЬ (ПЕРАМЫЦЬ) ЯЗЫКОМ (ЯЗЫКАМІ)** *каго, што. Зак. Яна [кумка], нібы ў розведцы, шнуруе з дома ў дом, яна ўсё чалавецтва абмые языком.* Лужанін. *Мядзведзіцкія не даруюць Вольцы такога ўчынку, будуць перамываць языкамі на розныя спосабы, разнясуць славу на пяць міль кругом.* Крапіва.

**МЫЦЬ КОСТАЧКІ** *чые, каго, каму*. Гл. перамываць.

**Н`ОГІ М`ЫЦЬ** *каму, чые* **І Т`УЮ ВАД`У П`ІЦЬ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Бязмежна дагаджаць каму-н. у знак удзячнасці за што-н. Часцей як абяцанне. — *Будзем пані ногі мыць і тую ваду піць, — нізка кланялася пані Даміцэля.* Колас. *А ты стань маёй. Я цябе ашчасліўлю. Буду ногі твае мыць і тую ваду піць. Толькі будзь маёй.* Сабаленка. *Каб ён толькі са мной жыў, дык я яму б кожны дзень ногі мыла і тую б ваду піла...* Сіпакоў. *Яна ў адчаі выкрыквала наўзрыд: «Пецечка, не магу болей!.. Забяры мяне, Пецечка, ногі твае буду мыць і тую ваду піць!»* Кусянкоў.

*МЫЧЫЦЬ* ● **НІ МЫЧ`ЫЦЬ НІ Ц`ЕЛІЦЦА.** *Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нерашучы, няздольны прыняць і ажыццявіць сваё рашэнне. *Васілене не змоўчала: — Во гэта размова... Не так, як Юзас: ні мычыць ні целіцца.* Броўка. *Кандрат Астапавіч Нядзелька сказаў Рыжаму — Змітру Шламаку: — Стараста ў вас нейкі... Ні рыба ні мяса. Ні мычыць ні целіцца.* Сачанка. *Па надоях нашы хлопцы на рэкорды цэляцца. А падыдуць да дзяўчат — ні мычаць ні целяцца!* Матукоўскі. *Гэта што за малады? Ходзіць цэлых два гады, муравою сцелецца, ні мычыць ні целіцца...* Зуб. *Кожны вечар цябе Савасцей Карпавіч да сябе на працу запрашае, а ты ні мычыш ні целішся.* Пянкрат.

*МЫШ* ● **ЛЯТ`УЧАЯ М`ЫШ.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* **1.** Начная млекакормячая жывёліна з шырокімі перапончатымі крыламі; кажан. *Над ім, таксама нячутна мільгаючы крыльцамі, улукаткі вілася лятучая мыш.* Адамчык. *Прыбілася ў галаву сціншае, як лятучая мыш: «А ці ўжывешся з кімсьці, хто няздольны быць рады не ад сваёй удачы?»* Яновіч. *Надакучыла ўсё гэта, непрыемна. Адразу*

*прыгадваюцца фантастычныя фільмы, дзе лятучыя мышы ўвасабляюць сабой чорныя сілы.* Пашкоў.

**2.** Пераносны газавы ліхтар пэўнай канструкцыі. *Чадзіў ліхтар «лятучая мыш», было душна, смярдзела прэлымі анучамі.* Шамякін. *Цупаюць у дзённай яснасці і ў чорныя, з першым подыхам холаду, ночы — пры святле «лятучых мышаў».* Мележ. *Дзям'ян запаліў «лятучую мыш» і падаўся дахаты.* Дуброўскі. *Ляшковіч падняў з-пад ног «лятучую мыш» з вялікай чыстай шкелкай і павёў мяне ў самы канец канюшні.* Пташнікаў.

**М`ЫШ НЕ ПРАСК`ОЧЫЦЬ**. *У безас. ужыв. Разм.* Немагчыма выбрацца, уцячы адкуль-н. ці пранікнуць куды-н. — *Во паглядзіце: яго арыштоўваюць, а ён завязвае гальштук. Хіба павесіцца ў турме. — Каб ухіліцца ад пакарання, — сказаў Сурвіла. — Ну, такі нумар у нас не пройдзе. У нас парадак!.. — Бальшавіцкі парадак!.. Мыш не праскочыць.* Быкаў. *Маёр Качароў аддаў загад: па чырвонай ракеце браць хутар наступам. Убачаць, якая сіла прэ, здадуцца. Ніякіх шанцаў у іх няма, кола моцнае, шчыльнае, мыш не праскочыць.* Кажадуб. *А цяпер — усё! Цяпер іншай дарогі няма! — Міхась яшчэ раз аглядзеўся навокал. — Абклалі так, што і мыш не праскочыць.* Маракоў.

<u>*Дзьмуцца (надзьмуцца), супіцца (насупіцца)*</u> **ЯК М`ЫШ НА КР`УПЫ.** Акал. Разм. Вельмі моцна. — *Няхай есць, ці ж я шкадую? — бацька адазваўся. — Еш, Алесь, чаго надзьмуўся ты як мыш на крупы?* Колас. *Ужо другую партыю прасадзіў ён [Свістун] свайму партнёру. Прасадзіў і дзьмуўся як мыш на крупы, пазіраючы на Збынеўскага.* Лынькоў. *— Што, дзядзька Мікіта, сычом сядзіш? — крычаў малады, Змітрок. — Надзьмуўся як мыш на крупы!* Кажадуб. *— Чаго гэта ты.., — сказаў Пракоп, — насупіўся як мыш на крупы?* Баранавых. *Сядзіць Зайкоўскі, супіцца як мыш на крупы...* Місько.

<u>*Сядзець*</u> **ЯК М`ЫШ ПАД В`ЕНІКАМ (ПАД МЯТЛ`ОЙ).** *Акал. Разм.* Вельмі ціха, бясшумна ці спалохана. *Пакуль яны згружалі шыфер, пакуль Аўгіння разлічвалася з імі, Іван сядзеў у кутку як мыш пад венікам.* Асіпенка. *У Галі матчын характар. У той мужык не пісне, сядзіць як мыш пад венікам. А таксама некалі быў з форсам.* Васілевіч. *Такія адозвы разлічаны на тое, каб мы ўсе, хто трапіў пад акупацыю, сядзелі як мышы пад венікам і ні гу-гу.* Чыгрынаў. *Цяпер Гершталь сядзеў у сваім гарнізоне як мыш пад мятлою.* Якімовіч. *А па чужых кутках не хачу туляцца, у нейкага прыватніка як мыш пад мятлою сядзець.* Цяжкі.

<u>*Загінуць, прапасці*</u> і пад. **ЯК РУД`АЯ М`ЫШ.** *Адз. і мн. Акал. Разм.*

Зусім дарэмна, беспрычынна. **Сін**.: вечным правам; за гнілую рыбу; ні за грош; ні за капейку; ні за панюх табакі; ні за што ні пра што. *[Паўлінка:] Толькі ты, кажа, Паўлінка, павінна на гэта прыстаць канешне, бо іначай, кажа, згінем як рудыя мышы.* Купала. *А дома ўсё гібне, прападае, і сам тут прападзеш як мыш рудая!..* Колас. *Нават Васіль Платонаў загаварыў без усякіх жартаў: — Загоняць дзе-небудзь у Падоськавічы, загіну як рудая мыш.* Міско.

<u>Бедны</u> **ЯК ЦАРК`ОЎНАЯ М`ЫШ.** *Акал. Разм.* Вельмі, да крайняй ступені. *Не разумею, пра якое золата вы гаворыце... Я бедная як царкоўная мыш...* Місько.

*МЫШКУ* ● **ГУЛЬНЯ Ў КАТА І МЫШКУ.** Гл. гульня.

**ГУЛЯЦЬ У КАТА І МЫШКУ.** Гл. гуляць.

**ПАГУЛЯЦЬ У КАТА І МЫШКУ.** Гл. пагуляць.

*МЫШЫНАЯ* ● **МЫШЫНАЯ МІТУСНЯ.** Гл. мітусня.

*МЫШЫНЫ* ● **МЫШЫНЫ ЖАРЭБЧЫК.** Гл. жарэбчык.

*МЫШЭЙ* ● **МЫШЭЙ НЕ ЛАВІЦЬ.** Гл. лавіць.

*МЭ* ● **НІ БЭ НІ МЭ <НІ КУКАРЭКУ>.** Гл. бэ.

*МЭБЛІ* ● **ДЛЯ (ДЗ`ЕЛЯ) М`ЭБЛІ.** *Праст.* **1**. *Акал.* Як непатрэбшчына, як лішняе, бескарыснае (стаяць, сядзець і пад.). *Тутэйшыя ўмельцы.. заявілі, што больш рамантаваць не будуць, бо няма запчастак. Так і стаіць тэлевізар у кватэры, як кажуць, дзеля мэблі.* «Звязда». *Ага, гэтага вы не ведаеце. Я так і думаў, што вы тут толькі для мэблі седзіцё.* Васілёнак.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зусім бескарысны, непатрэбны пры якой-н. справе ці дзе-н. *[Пётр:] Ці зможа яна разабрацца ва ўсіх інструкцыях і розных там паперках? [Насця:] Ды і мы тут не для мэблі. Паможам, падкажам.* Зуб.

*МЯ* ● **НІ БЭ НІ МЯ.** Гл. бэ.

*МЯДЗВЕДЖАЕ* ● **МЯДЗВЕДЖАЕ ВУШКА.** Гл. вушка.

*МЯДЗВЕДЖЫ* ● **МЯДЗВЕДЖЫ КУТОК.** Гл. куток.

*МЯДЗВЕДЗІЦА* ● **ВЯЛ`ІКАЯ МЯДЗВ`ЕДЗІЦА.** *Мн. не ўжыв. Функц. не зам. У ролі розных чл. ск.* Сузор'е Паўночнага паўшар'я з сямі зорак у форме каўша. *Булахоўскі убачыў над сабою спакойнае начное неба з задраным каўшом Вялікай Мядзведзіцы і пачуў невыразныя галасы паблізу.* Быкаў. *Праз адно акно ён бачыў, як зусім перавярнулася каўшом угору, стала старчаком на небе Вялікая Мядзведзіца.* Сіпакоў. *Муня пакруціў туды-сюды галавою, адшукаў у зорным небе Вялікую Мядзведзіцу – Воз...* Зуёнак.

**МАЛ`АЯ МЯДЗВ`ЕДЗІЦА.** *Мн. не ўжыв. Функц. не зам. У ролі розных чл. ск.* Каляполюснае сузор'е Паўночнага паўшар'я з мноства

зорак, сем з якіх, найбольш яркіх, утвараюць фігуру, падобную на коўш. *Малая Мядзведзіца, у бестурботнасці задраўшы хвост, гайсала па нябёсах, скідваючы на зямлю дурненькія зоркі.* Яновіч.

*МЯДЗВЕДЗЬ* • **МЯДЗВ`ЕДЗЬ (СЛ`ОН) НА В`УХА НАСТУП`ІЎ** *каму. У безас. ужыв. Разм. Часам жарт.* У каго-н. няма музыкальнага слыху, здольнасцей да музыкі. *Мне мядзведзь на вуха наступіў... Ды і што яна мне, шаўцу, музыка гэтая.* Новікаў. *Як хацеў бы я пахадзіць з табою па горадзе, паслухаць музыку. Згодзен нават на сімфонію, хоць яна да мяне не даходзіць: мядзведзь на вуха наступіў.* Левановіч. *Пазней, канечне ж, зразумеў іх [настаўнікаў] недаўменна-скептычныя погляды: маўляў, я, просты філолаг, якому, трэба думаць, яшчэ і слон на вуха наступіў, прыйшоў менавіта да іх, у школу з музычным ухілам.* Масарэнка. *Не, вы толькі паслухайце — сыночку слон на вуха наступіў, а мамачка раптам адкрывае ў ім талент.* Вітка.

**МЯДЗВЕДЗЬ У ЛЕСЕ ЗДОХ.** Гл. воўк.

*МЯДЗВЕДЗЯ* • **ДЗЯЛІЦЬ ШКУРУ НЕЗАБІТАГА МЯДЗВЕДЗЯ.** Гл. дзяліць.

**ПАДЗЕЛ СКУРЫ НЕЗАБІТАГА МЯДЗВЕДЗЯ.** Гл. падзел.

*МЯДЗВЕДЗЯЎ* • **ДА Б`ЕЛЫХ МЯДЗВ`ЕДЗЯЎ.** *Акал. Разм. Іран.* У канцэнтрацыйныя лагеры на поўначы ці ўсходзе Расіі (завезці, загнаць і пад.). *Як кожны прадажны чалавек, ён падвёў яшчэ й саветы, і за тое, забыўшыся пра іх ранейшыя «заслугі», а можа, і дзеля іх, схапілі чэкісты і гэтую пару і, як усіх, паперлі да белых мядзведзяў.* .Геніюш. *Было іх 20 асоб, здаецца, хацелі беларускай мовы ў школах. Загналі іх, нават шаснаццацілетніх, «да белых мядзведзяў».* «Маладосць». *Каб не паехаць да белых мядзведзяў, выбірае палескі хлопец родныя лясныя абшары. Сорак два гады блукаў ён па балотах, начаваў у капе сена ў глухім непрыветным лесе.* «ЛіМ». *Даведаюцца саветы, што памагаў партызанам [несавецкім] – зараз прыедзе чорны воран і вывезе да белых мядзведзяў.* «Полымя».

*МЯДОВІЧ* • **ЦУКАР МЯДОВІЧ.** Гл. цукар.

*МЯДОВЫ* • **МЯДОВЫ МЕСЯЦ.** Гл. месяц.

*МЯЖОЙ* • **ЗА МЯЖ`ОЙ.** *Акал. Функц. не зам.* У замежных дзяржавах. **Сін.**: за бугром; за граніцай. — *Вы абяцалі расказаць пра жыццё за мяжою, — напомніў я Сцяпану Сцяпанавічу.* Сачанка. *Генка, наадварот, на Поўдні, у Крывым Розе, а меншы іхні за мяжой, кажуць, служыць.* Гіль.

*МЯЖУ* • **ЗА МЯЖ`У.** *Акал. Функц. не зам.* У замежныя краіны. **Сін.**: за бугор; за граніцу. *Калісьці, яшчэ ў маладосці, я ездзіў за мяжу*

*адбываць практыку. Тады гэта было ў модзе.* Шахавец. *[Седас] так уеўся людзям у косці, што яны вельмі шкадавалі, калі яму ўдалося жывым уцячы разам з панам за мяжу.* Шкраба.

**ПРАВ`ОДЗІЦЬ МЯЖУ** *паміж кім, паміж чым.* Гл. праводзіць.

*МЯЖЫ* ● **З-ЗА М ЯЖ`Ы.** *Акал. Функц. не зам.* З замежных краін. **Сін**.: з-за граніцы. *[Ражноўскі:] Я ад імя нашых ударнікаў заяўляю: папсуты прэс пусцім, часткі з-за мяжы выпісваць не будзем, так што, таварыш Лось і Крумкач, прыйдзеце паглядзець, як мы будзем змагацца за наш аўтарытэт.* Галубок. — *Вы ж не мужык?.. Інтэлігент? — А вы?.. З дваран? З-за мяжы?* Далідовіч.

**НА МЯЖ`Ы ЖЫЦЦ`Я І СМ`ЕРЦІ** <u>*быць, знаходзіцца*</u> і пад. *Часцей вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У вельмі небяспечным для жыцця становішчы. **Сін**.: між жыццём і смерцю; на божай пасцелі (у 1 знач.); пры смерці. *Тыя тры дні, такія доўгія і невыносныя, калі дзіця знаходзілася на мяжы смерці і жыцця, Надзя хадзіла бы на краі бездані.* І.Капыловіч. *[Бяссмертнага] мацней пацягнула да таго, што ўжо было забыта і заслонена гібеллю сяброў, выбухамі і пажарамі, жорсткімі сутычкамі і баямі, няспынным лавіраваннем на мяжы жыцця і смерці, — яго пацягнула да спакойнага жыцця.* Дамашэвіч. *Мо ў Апанаса на мяжы жыцця і смерці абудзіўся невядомы інстынкт, які бывае ў шмат якіх жывых істот...* Блакіт.

*МЯКІНА* ● **МЯК`ІНА Ў ГАЛАВ`Е** *ў каго. У безас. ужыв. Прааст. Неадабр.* Хто-н. бесталковы, някемлівы. **Сін**.: дах паехаў *у каго*; дурны поп хрысціў *каго*; зрух па фазе *ў каго*; клёпкі не хапае <у галаве> *ў каго*; мазгі адсохлі *ў каго* (у 2 знач.); мазгі набакір *у каго*; мазгі не на месцы *ў каго*; не ўсе дома *ў каго*; салома ў галаве *ў каго, чыёй*; шарыкі за ролікі заходзяць *у каго.* **Ант**.: галава варыць *у каго*; <ёсць> <свая> галава на плячах *у каго*; кацялок варыць *у каго*; мазгі варацьь *у каго*; не галава, а дом саветаў *у каго*; светлая галава *ў каго. Чым жа яму, Мар'я Мацвееўна, пахваліцца другім, калі ў галаве мякіна?* Мележ. *І хто гэта будзе прыглядацца да цябе, Дуня, калі ў галаве ў цябе мякіна?* «Полымя».

*МЯКІНЕ* ● **НА МЯКІНЕ НЕ ПРАВЯДЗЕШ** *каго.* Гл. правядзеш.

*МЯКІНЫ* ● **АДВЕЙВАЦЬ ЗЕРНЕ АД ПАЛОВЫ (МЯКІНЫ).** Гл. адвейваць.

*МЯККА* ● **МЯККА СЦЕЛЕ <ДЫ МУЛКА СПАЦЬ>.** Гл. сцеле.

*МЯККАЕ МЕСЦА* ● **МЯККАЕ МЕСЦА.** Гл. месца.

*МЯЛА* ● **НІ Ў КОЛА НІ Ў МЯЛА.** Гл. кола.

*МЯЛЕ* ● **І Ў КОЛЕ І Ў МЯЛЕ.** Гл. коле.

*МЯНЕ* ● **ГЛЯДЗІ Ў МЯНЕ!** Гл. глядзі.

*МЯНТАШЫЦЬ* ● **МЯНТАШЫЦЬ ЯЗЫКОМ.** Гл. мянціць.

*МЯНЦІЦЬ* ● **МЯНЦ`ІЦЬ (МЯНТ`АШЫЦЬ) ЯЗЫК`ОМ (ЯЗЫК`АМІ).** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Гаварыць упустую, пустасловіць. **Сін**.: араць дарогі; біць язык аб зубы (у 2 знач.); блынды правіць; гарадзіць плот <*каму*>; званіць у <разбіты> лапаць; круціць вала <за хвост> (у 2 знач.); ліць ваду; мазоліць язык; малоць языком (у 1 знач.); малоць не падсяваючы; пераліваць з пустога ў парожняе (у 2 знач.); плесці кашалі <*каму, пра каго, пра што*>; плесці кашалі з лапцямі; плесці лапці; пляскаць языком; разводзіць антымоніі; разводзіць тары-бары; тары-бары <растабары> (у 2 знач.); таўчы ваду ў ступе (у 2 знач.); тачыць лясы <*з кім*>; травіць баланду (у 1 знач.); трапаць языком; часаць язык (у 1 знач.); часаць языком. *Ды што тут мянціць языкамі, з пустога ў парожняе ліць? На Нёман хадзем з бусакамі, каму гэта справа баліць!* Колас. *Марыля да кумы хадзіла... Пакуль яна там языком мянціла, ні часу не шкадуючы, ні слоў, — было раздолле для катоў.* Скрыпка. *Сівабароды сказаў: — Ты, Кір'ян, меней бы языком мянташыў.* Лупсякоў.

**2.** Распаўсюджваць плёткі, абгаворваць каго-н. **Сін**.: апалоскваць косці *чые, каго* (у 1 знач.); малоць языком (у 2 знач.); мыць языком *каго, што*; перабіраць <усе> костачкі *чые, каго, каму* (у 1 знач.); перамываць костачкі *чые, каго, каму*; часаць язык (у 2 знач.). *А ты паменей языком мянці. Расказваюць! Ці мала чаго расказваюць, а ты толькі вушы паддстаўляй.* Лынькоў. *— А чаму, сынок? — Так сабе, мама, не хачу, каб языкамі мянцілі што не след.* Мурашка. *— Па-мойму, і з Верай у цябе нешта было, а? — усё яшчэ смеючыся, спытаў хлопец з пявучым голасам. — Ці гэта проста людзі языкамі мянташылі?..* Кудравец.

*МЯНЯЦЬ* ● **МЯН`ЯЦЬ Б`ЫКА НА ІНД`ЫКА.** *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дзейнічаць, рабіць неабдумана, неабачліва; выбіраць горшае. **Сін**.: мяняць гаршкі на гліну; мяняць шыла на мыла. *Нешта, Барыс Віктаравіч, ад твайго хвалёнага няма ніякага толку. Ці не перахваліў ты яго? Мабыць, дарэмна мы мянялі быка на індыка.* Скрыган. **ЗМЯНЯЦЬ (ЗМЯНІЦЬ, ПАМЯНЯЦЬ, ПРАМЯНЯЦЬ) БЫКА НА ІНДЫКА.** *Зак. Чорная крыўда мяне агарнула. «Няўжо ты не бачыш, Міхалка, — кажу аднойчы, сам-насам за сялом з ім сустрэўшыся, — змяняў ты быка на індыка».* Лужанін. *— А ведаеш, яно ж не позна і цяпер яшчэ выправіць памылку, кідай Макара дый гайда да мяне. — Дай падумаць раней, ці варта. Каб не змяніць быка на індыка...* Галавач. *Сцёпачка і не збіраўся выязджаць з вёскі, бо што ён там выгадваў? Нічога. Але ж вось на табе: памяняў быка на індыка.* Вaraновіч. *І каня памяняць не так проста бывае,*

*прамяняеш быка на індыка.* Галавач.

**МЯН`ЯЦЬ ГАРШК`І НА ГЛ`ІНУ.** *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дзейнічаць, рабіць неабдумана, неабачліва; выбіраць горшае. **Сін**.: мяняць быка на індыка; мяняць шыла на мыла. **ЗМЯНЯЦЬ ГАРШКІ НА ГЛІНУ.** *Зак. Гэта ў Сцяпана Пятровіча трэцяя жонка. Ну, калі выбіраць ужо, дык выбіраць. А то змяняў гаршкі на гліну.* Шахавец.

**МЯН`ЯЦЬ ПЛАСЦ`ІНКУ.** *Незак. Разм. Жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пераключацца на новую тэму размовы. *Кравец не толькі не падтрымаў яго, а нават падміргнуў, каб той мяняў хутчэй пласцінку. Толік адразу ж перавёў гаворку на іншую тэму.* Гаўрылкін. **ЗМЯНІЦЬ (ПЕРАМЯНІЦЬ) ПЛАСЦІНКУ.** *Зак. — Дайце рады, Мілку ў сяле хто б узяў? Уладкавалася на заводзе — на табе хлопец! І вучоны!.. — Цётка Зенька, змяніце пласцінку, — гукнула Мілка і засмяялася.* Мыслівец. *[Надзя:] Ну і язычок у цябе, Валя. Ці не пара пласцінку перамяніць?* Крапіва. *У размову ўмяшаўся Пятро: — Пераміце пласцінку! Прысталі да чалавека — заручыны, запоіны...* М.Капыловіч.

**МЯН`ЯЦЬ Ш`ЫЛА НА М`ЫЛА.** *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дзейнічаць, рабіць неабдумана, неабачліва; выбіраць горшае. **Сін**.: мяняць быка на індыка; мяняць гаршкі на гліну. **ЗМЯНЯЦЬ (ПАМЯНЯЦЬ) ШЫЛА НА МЫЛА.** *Зак. Вось і казалі [пасля пераезду на новае месца]: «Змяняў ляснічы шыла на мыла».* Карамазаў. *Помніш... калі, язык высунуўшы ад стомы, бегалі па горадзе і шукалі новую кватэру, калі ўсё-такі з’ехалі з лямантам на другую кватэру і як там жылі. Памяняўшы шыла на мыла...* Гігевіч.

*МЯСА* ● **В`ОЎЧАЕ М`ЯСА.** *Мн. не ўжыв. У знач. зваротка ці прыдатка. Праст. Неадабр.* Выказванне незадаволенасці канём, сабакам. *— Но! Но! Каб цябе... — ахрыплым, надломаным голасам крычаў чалавек на каня. — Воўчае мяса!* Баранавых. *Калі рванецца [сабака], дык, здаецца, і ланцуг той паляціць к чорту. Я — цюцечка, цюцечка! — і сала прабаваў кідаць — не бярэ, воўчае мяса!* Крапіва.

**ГАРМ`АТНАЕ М`ЯСА.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Салдацкая маса, асуджаная на знішчэнне, на пагібель. *Царская Расія гоніць і гоніць на фронт эшалоны гарматнага мяса...*“ЛіМ». *Гарматнае мяса скуплялі вярбоўшчыкі ўсюды ў цёмных прытонах зямлі.* Панчанка. *Чалавек — не мяса гарматнае, не кропка для ненажэрнай ракеты!* Агняцвет.

**НІ РЫБА НІ МЯСА.** Гл. рыба.

*МЯСАМ* ● **З М`ЯСАМ** *вырваць, адарваць, адкруціць.* *Акал. Разм.* Разам з

кавалкам матэрыялу. *[Бязмен] як схопіць тую палёўку, арла таго — шах! — адкруціў проста з мясам, кінуў у кошык пад сталом, шапку — шпурлець мне на чэрава.* Брыль. *Гляджу з жахам на Барыса, на яго зашмальцаванае паліто з вырванымі «з мясам» гузікамі.* Карпюк.

*МЯСІЦЬ* ● **МЯС`ІЦЬ ГР`АЗЬ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Ісці па гразкай дарозе. *Цяпер яны мясілі гразь разам: коннік і конь. У Клімёнка боты ледзь не зрываліся за кожным крокам...* Дамашэвіч. *Канешне, вольнаму воля... Я б тут ніводнага дня гразі не мясіў.* Варановіч. *Гэтаю вясною, калі я працавала агенткаю і два тыдні мясіла гразь па ўскраінах горада, я склала верш. Хочаш, паслухай.* Ялоўчык.

*МЯСЦІНА* ● **СЛАБАЯ МЯСЦІНА** *чыя, каго, чаго, у каго, у чым.* Гл. месца.

*МЯСЦІНЫ* ● **МЯСЦ`ІНЫ НЕ В`ЕЛЬМІ (НЕ Н`АДТА) АДД`АЛЕНЫЯ.** *Адз. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Далёкая ссылка. *— Кажаш, табе патрэбна толькі сталіца? І што ж — здалёк ты шыбуеш да яе? — Здалёк. Хоць у мастацкай літаратуры тыя мясіны завуцца чамусьці «мясцінамі не вельмі аддаленымі».* Васілёнак. *На два гады адбыў Іосіф у мясціны не надта аддаленыя.* «Звязда».

*МЯТЛОЙ* ● **ЯК МЫШ ПАД МЯТЛОЙ.** Гл. мыш.

*МЯТЛУ* ● **ПАД МЯТЛ`У (ПАД МЯЦ`ЁЛКУ)** *браць (узяць), вычышчаць (вычысціць)* і пад. *Акал. Разм.* Нічога не пакідаючы, начыста, поўнасцю. **Сін**.: пад корань (у 2 знач.). *Робіш на некага! Як парабак!.. Робіш, а ён — жаба — прыйдзе ды вычысціць пад мятлу!* Мележ. *Фашысты пасылалі на ўсход бясконцыя падмацаванні. Яны пад мятлу вычышчалі свірны калгаснікаў.* Новікаў. *Набліжаюцца каляды... Людзі як быццам пашалелі. Усе магазіны спустошваюцца пад мяцёлку.* Лужанін.

*МЯХІ* ● **УЛІВАЦЬ У СТАРЫЯ МЯХІ НОВАЕ ВІНО.** Гл. уліваць.

*МЯХУ* ● **ЗА ПУСТЫ МЕХ <А Ў МЯХУ СМЕХ>.** Гл. мех.

*МЯЦЁЛКУ* ● **ПАД МЯЦЁЛКУ.** Гл. мятлу.

*МЯЧОМ* ● **АГНЁМ І МЯЧОМ.** Гл. агнём.

*МЯЧЫ* ● **МЯЧ`Ы СКРЫЖ`ОЎВАЮЦЦА (СКРЫЖ`ОЎВАЛІСЯ)** *дзе. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Пачынаюцца баі, паядынкі. *Белая Русь... Колькі разоў на яе зямлі скрыжоўваліся мячы, і беларусы першыя прымалі ўдары ад шматлікіх ворагаў, сквапных чужаземцаў.* Гурскі.

**ПЕРАКАВАЦЬ МЯЧЫ НА АРАЛЫ.** Гл. перакаваць.

**СКРЫЖОЎВАЦЬ МЯЧЫ** <*з кім*>. Гл. скрыжоўваць.

*МЯШАЦЦА* ● **МЯШ`АЦЦА З ГР`АЗЁЮ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Усяляк прыніжацца, беспадстаўна абвінавачвацца. *Наша роднае ўхілялася ўбок,*

*аддавалася на смех, выскалянне і кпіны, тапталася нагамі і мяшалася з гразёю, а за прыклад выстаўлялася чужое, велікарускае, дзецям не даступнае і малазразумелае.* Лёсік.

*МЯШАЦЬ* ● **МЯШ`АЦЬ З ЗЯМЛ`ЁЙ.** *Разм.* **1**. *што.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці канкр. прадмета. Поўнасцю разбураць, знішчаць дашчэнту, ператвараць у руіны. **Сін**.: вырываць з коранем *што*, зраўняць з зямлёй *што*; не пакідаць каменя на камені (у 1 знач.); сціраць з твару зямлі (у 2 знач.). *Напаўшы на Савецкі Саюз, гітлераўцы мяшалі з зямлёй нашы гарады і сёлы і знішчалі сотні тысяч нашых мірных людзей.* Чорны. **ЗМЯШАЦЬ З ЗЯМЛЁЙ** *што. Зак. — Ха-ха-ха, — зарагатаў генерал Гофман. — Падцягнуць да «вострава» артылерыю і ўдарыць, змяшаць усё з зямлёю.* Гурскі.

**2**. *каго.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Забіваць, знішчаць. **Сін**.: грызці горла *каму*; зрабіць блін *з каго*; накладваць рукі *на каго*; сціраць з твару зямлі (у 1 знач.); сцерці ў парашок *каго.* **ЗМЯШАЦЬ З ЗЯМЛЁЙ** *каго. Зак. [Трахім:] Крані хоць пальцам, дык з зямлёй змяшаю!* Купала. *Кожная жылка ва мне.. дрыжыць, я гатовы растаптаць яго [Задарожнага], пакалечыць, змяшаць з зямлёй.* Быкаў.

**3**. *каго.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Усяляк прыніжаць, ганьбіць, груба лаяць. **Сін**.: абліваць граззю *каго, што*; вешаць сабак *на каго, на што*; выліваць памыі *на каго*; выліваць бруд на галаву *каго*; закідваць граззю *каго*; кідацца граззю; кідаць каменем *у каго*; кідаць цень *на каго, на што* (у 1 знач.); ліць бруд *на каго*; мазаць дзёгцем *каго, што*; мяшаць з граззю *каго, што*; наводзіць цень *на каго, на што*; падтоптваць пад ногі (у 2 знач.); таптаць у гразь *каго, што.* **ЗМЯШАЦЬ З ЗЯМЛЁЙ** *каго. Зак. Са злосцю, лютасцю выбіраецца Маргарыта ў надпрыпяцкі горад. Яна выкрые, зганьбіць, змяшае з зямлёй свайго нарачонага, а разводу не дасць!* Навуменка.

**МЯШ`АЦЬ (ЗМ`ЕШВАЦЬ) З ГР`АЗЗЮ (З ГРАЗ`ЁЙ)** *каго, што. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Усяляк прыніжаць, груба лаяць, несправядліва абвінавачваць. **Сін**.: абліваць граззю *каго, што*; вешаць сабак *на каго, на што*; выліваць памыі *на каго*; выліваць бруд на галаву *каго*; закідваць граззю *каго*; кідацца граззю; кідаць каменем *у каго*; кідаць цень *на каго, на што* (у 1 знач.); ліць бруд *на каго*; мазаць дзёгцем *каго, што*; мяшаць з зямлёй (у 3 знач.); наводзіць цень *на каго, на што*; падтоптваць пад ногі (у 2 знач.); таптаць у гразь *каго, што. Якая цана той крытыцы, што абмінае промах старэйшага майстра, а маладога мяшае з граззю?* Колас. *Камкор дастае пісталет: «Стой!» І да Багданава. Давай яго з гразёю мяшаць. Накрычаўся — у эмку. І — далей адгэтуль...* Быкаў.

*[Прыстром:] Ці бачыў свет калі, каб памочнік выступаў дзе на шматлюдным сходзе супраць свайго начальства? Ды як выступаў? З граззю змешваў думкі, перакананні свайго начальніка...* Шынклер.
**ЗМЯШАЦЬ З ГРАЗЗЮ (З ГРАЗЁЙ)** *каго, што. Зак. [Крытык] змяшаў, можна сказаць, народжаную ў пакутах кнігу з граззю.* Навуменка. *Дарагая рэдакцыя! Ратуйце! Дапамажыце! Абараніце! Мяне абразілі, зняважылі, зганьбілі, змяшалі з гразёю...* Зуб.

*МЯШКА* • *Сыпаць, сыпацца (насыпацца)* **ЯК З МЯШК`А (З М`ЕХА).** *Акал. Разм.* У вялікай колькасці, невычарпальна і бесперастанку. **Сін**.: як з рога дастатку; як з рукава; як з рэшата (у 2 знач.). *Буфетчыца на месцы — яна проста ззяе сёння. Вясёлая, рухавая, рэжа хлеб, шчоўкае на лічыльніках і як з мяшка сыпле дасціпнымі слоўцамі.* Навуменка. *На каго-каго, а на цябе ніколі не падумаў бы, што ты можаш гэтак замаркоціцца. Раней сыпаў жарты як з мяшка.* Далідовіч. *Прыгоды розныя, анекдоты, здарэнні, праўдзівыя і тут жа, пэўна выдуманыя, сыпаліся як з мяшка.* Шамякін. — *А як прырэзка, будзе якая ці не? — першае нясмелае пытанне. За ім пасыпаліся як з меха: — А ці дадуць лесу забудавацца?..* Крапіва. — *Добра, што хоць тут зладзіў! Бегай за вамі! — сыпаў ён як з меха. — Давай дзейнічай. Мігам!* Карпаў. *Розныя прапановы пасыпаліся як з меха.* Прыгодзіч.

**ЯК ШЫЛА З МЯШКА** *вылазіць.* Гл. шыла.

*МЯШКІ* • **ШАШКІ Ў МЯШКІ.** Гл. шашкі.

*МЯШКОМ* • **ЯК ПЫЛЬНЫМ МЯШКОМ УДАРАНЫ.** Гл. ударaны.

*МЯШКУ* • **КОТ У МЯШКУ.** Гл. кот.

**КУПЛЯЦЬ КАТА Ў МЯШКУ.** Гл. купляць.

**ЯК ШЫЛА Ў МЯШКУ.** Гл. шыла.

*МЯШОК* • **ЗАЛАТ`Ы МЯШ`ОК.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Вельмі багаты чалавек ці капіталісты, буржуазія як клас. *Яго [Л.Талстога] ненавідзелі і пабойваліся не толькі чыноўнікі, не толькі прадстаўнікі залатога мяшка, але і самі вярхі самаўладнага дзяржаўнага апарату.* Лынькоў.

**КАМ`ЕННЫ МЯШ`ОК.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм.* **1**. Турэмная камера, а таксама турма. **Сін**.: казённы дом; неба ў клетачку. *[Чарнецкі:] Калі ты гэтага не зробіш, то сам да смерці будзеш бачыць толькі турэмныя сцены і змрок у каменным мяшку.* Чорны. *Закаваныя ў кайданах «сіцылісты» ў каменных мяшках усё жыццё пакутуюць.* Бядуля. *У кожным каменным мяшку сядзела, а дакладней, стаяла па чатыры ці восем вязняў. Гэта быў парог смерці.* Новікаў.

**2**. Цёмнае і цеснае памяшканне для часовага адзіночнага зняволення (у турмах, канцлагерах і пад.); карцэр. *Пра карцэр*

*Кастусь наслухаўся многа, але ў каменны мяшок сам трапіў упершыню.* С.Александровіч. *— Усё ж з непрывычкі цяжка сядзець у каменным мяшку, — разважаў Грэчка.* Няхай.

**МЯШОК З САЛОМАЙ.** Гл.мех.

**н**

*НА* ● **Н`А ТАБЕ.** *Выкл. Разм.* Вокліч здзіўлення, расчаравання і пад. з нагоды чаго-н. нечаканага. **Сін**.: на табе чорт табакі. *Змаўчаў дзед на якую хвіліну. Гэткі ж канфуз выйшаў — усё ішло так добра і гладка, і на табе, замест ментуза гада злавілі.* Лынькоў. *Думала [Агата], што не часта будзе бачыцца з сынам. Свет вялік! Мала куды могуць паслаць на працу, а тут на табе, прыехаў і будзе працаваць у сваім жа сяле.* Броўка. *Едучы нядаўна ў Юравічы, Чарнушка бачыў, як клалі зруб прыбудоўкі, а вось ужо на табе — крама!* Мележ. *Больш за месяц у класе не было ўжо нават тройкі, а тут, на табе, двойка.* Пальчэўскі.

*НАБАКІР* ● **МАЗГІ НАБАКІР** *у каго.* Гл. мазгі.

*НАБАТ* ● **БІЦЬ У НАБАТ.** Гл. біць.

**УДАРЫЦЬ У НАБАТ.** Гл. ударыць.

*НАБІВАЦЬ* ● **НАБІВ`АЦЬ АСК`ОМУ (АСК`ОМІНУ)** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Моцна дакучаць, назалясць каму-н. **Сін**.: блытацца пад нагамі *ў каго;* мазоліць вочы *каму;* муляць вочы *каму;* навязнуць у зубах *каму.* **НАБІЦЬ АСКОМУ (АСКОМІНУ)** *каму. Зак. Калі гаварылася слова «атрымаеш», то ўсякія дыскусіі спыняліся і даводзілася спачатку, слова ў слова, паўтараць «Ойча наш», які ўжо набіў аскоміну.* Лынькоў. *У рэшце рэшт тэлевізар Гайшуна, відаць, набіў аскоміну жыткавіцкім тэлеайбалітам.* «Звязда».

**2**. *чым.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Што-н. становіцца вельмі непрыемным, нязносным для каго-н. **НАБІЦЬ АСКОМІНУ (АСКОМУ)** *чым. Зак. Прачытаў апошнія нумары нашых літаратурных часопісаў. Аж набіў аскому аднапланавымі, адназначнымі, аднатоннымі, аднаколернымі, пазбаўленымі ўсякага падтэксту творамі.* Танк. *Пасля ўжо, калі вахман і баўэр набілі аскому высокай палітыкай, пайшла звычайная сялянская гутарка пра добрае лета, пра касавіцу, пра недахват мужчынскіх рук...* Брыль.

**НАБІВ`АЦЬ В`ОКА** *на чым. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Набываць вопыт, уменне хутка вызначаць што-н., ацэньваць. *Калі чалавек многа чытае, то набівае вока і адным поглядам бачыць ўсю старонку...* Новікаў. **НАБІЦЬ ВОКА** *на чым. Зак. Затое ж дзядзька*

*хват і дока, набіў на косах сваё вока, і калі выбера ён коску — не пара іншаму падноску...* Колас. *Вядома, каб добра весці візуальную разведку, трэба ўмець назіраць. Як кажуць, трэба набіць вока, умець разгадваць хітрыкі праціўніка.* Алешка.

**НАБІВ`АЦЬ ГАЛАВ`У** *каму, каго чым. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Перагружаць чыю-н. памяць мноствам непатрэбных ведаў, звестак і пад. **Сін**.: забіваць галаву *каму чым* (у 2 знач.). *Называў вайну ён [Гебельс] бліцам, урачыстым маршам, набіваў галовы фрыцам «пераможным» фаршам.* Крапіва. *Заахвочаны пахвалой, памочнік імкнуўся пайней набіваць галаву свайго шэфа рознымі геапалітычнымі «тэорыямі» і дактрынамі.* «Полымя». **НАБІЦЬ ГАЛАВУ** *каму, каго, чым. Зак.*

**НАБІВ`АЦЬ КАШАЛ`ЁК.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна нажывацца (звычайна несумленным шляхам). **Сін**.: грэбці пад сябе <*што*>; грэць рукі *на чым, каля чаго, аб што, дзе*; набіваць <сабе> кішэнь. *Паўлюкоў тым часам набіваў кашалёк і ўжо адкрыта, на вачах у людзей, закладваў адборнай «натурай» багажнік і салон легкавіка* «Звязда». **НАБІЦЬ КАШАЛЁК.** *Зак.*

**НАБІВ`АЦЬ Н`ОГІ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна натамляцца ад доўгай хады, беганіны. **Сін**.: ногі адбіць. *У гэтай удавы няма ні свіней, ні тым больш гарэлкі, — яна такая бедная, што ісці да яе — толькі дарэмна ногі набіваць.* Шахавец. **НАБІЦЬ НОГІ.** *Зак. Юрачка салодка спаў... «Спі, сынок. Вывадзіла я цябе». Ох, як вывадзіла! І сабе ногі набіла, і малога змардавала, хоць нямала насіла.* Шамякін. *[Бабка Зося:] Нічога не купілі. Толькі ногі набілі.* Левановіч.

**НАБІВ`АЦЬ ПАНЧ`ОХУ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Накопліваць, не пускаючы ў абарот, трымаючы дома. Пра грошы. *А грошы... Халера з імі. Няма дзеля каго мне панчоху набіваць.* Лялько. **НАБІЦЬ ПАНЧОХУ.** *Зак. Паўла цікавіла ўваходжанне ў рублёвую зону... Іван Мацвеевіч падумаў з бяскрыўдным гумарам: «Набіў, пэўна, панчоху, што так хвалюецца...».* Шамякін.

**НАБІВ`АЦЬ РУК`У** *на чым, у чым. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выпрацоўваючы навык, рабіцца спрактыкаваным у чым-н. *Не мне вас вучыць, рэжысёр увесь час павінен набіваць сабе руку, як музыкант.* Гігевіч. *Не панікуй, не вешай носа! Набівай руку, прыглядвайся, як пішуць на рэспубліканскім узроўні... Ну, завядзі сабе ў звычку чытаць з алоўкам, матай на вус удалыя «хады», «павароты», ёмкія фразы, лаві свежыя тэмы...* Блакіт. **НАБІЦЬ РУКУ** *на чым, у чым. Зак. Я разумею, што руку набіць на якой-небудзь справе трэба,*

*тады й розумам лёгка варочаць; а я набіў, дзякуй богу: дзесяты год ужо каля лесу хаджу.* Галавач. *У гэтай справе ён [Сайка Мільгун] ужо набіў, як кажуць, руку.* Колас. *Можна авалодаць рыфмай, можна набіць руку на паэтычным чыстапісанні, але ўсё гэта не глеба, не грунт, на якім вырастае пісьменнік.* Вітка.

**НАБІВ`АЦЬ САБ`Е Г`УЗ НА ЛБ`Е.** *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Атрымліваць непрыемнасці ў выніку неабдуманых дзеянняў. **НАБІЦЬ САБЕ ГУЗ НА ЛБЕ.** *Зак. Няхай [Антаніна] паспрабуе адужаць задачу, якую заваліў Белячкоў і ягоныя памочнікі. Вельмі ўжо лёгка згадзілася яна ўзяцца за гэтую справу, ну дык няхай наб'е сабе гуз на лбе.* Радкевіч.

**НАБІВ`АЦЬ <САБ`Е, СВ`АЮ> КІШ`ЭНЬ (-Ю, -І).** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нажывацца (звычайна несумленным шляхам). **Сін**.: грэбці пад сябе *<што>;* грэць рукі *на чым, каля чаго, аб што, дзе;* набіваць кашалёк. *Здаралася, што з'яўляўся ў наваколлі благі чалавек, краў і рабаваў, набіваў сабе кішэні, а потым знікаў назаўсёды.* Броўка. *— І так можа быць, — кажа чыгуначнік. — Веру. Толькі больш ездзіць такіх, што на рынках кішэню набіваюць.* Лупсякоў. *Ты на яго працуй, вымотвай жылы, а ён... ён будзе сваю кішэню набіваць, а табе — горкія капейчыны...* Лынькоў. **НАБІЦЬ <САБЕ, СВАЮ> КІШЭНЬ (-Ю, -І).** *Зак. Бульба калі не брат, то, вядома было ўсім, — сябра Керанскага. Хоць, бадай, ідзе ён на такое не з-за палітыкі, а каб набіць сабе кішэню.* Шамякін.

**НАБІВ`АЦЬ САБ`Е ЦАН`У.** *Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Старацца ўзвысіць сябе ў вачах іншых, паказаць сябе больш значным. *— Міша, не набівай сабе, разумееш, цану, — прамовіў Клімчук. — Ты дагэтуль камандаваў, па крайняй меры, мной, і ў цябе добра выходзіла. Дык і заставайся камандзірам.* Гамолка. *Такія [зласліўцы] маглі думаць [пра Карнача]: знайшоўся смелы, цану сабе набівае, рэкламу стварае.* Шамякін.**НАБІЦЬ САБЕ ЦАНУ.** *Зак. — Хіба вам не ўсё роўна, — казаў так, быццам хацеў набіць сабе цану, Куксёнак.* Сабаленка.

*НАБІРАЦЦА* ● **НАБІР`АЦЦА Д`УХУ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Перамагаючы страх, хваляванне і пад., асмельвацца, адважвацца на што-н. **Сін**.: збірацца з духам; збірацца з сіламі (у 2 знач.). **НАБРАЦЦА ДУХУ.** *Зак. Міканор.. глянуў на Ганну, што сачыла з усмешачкай. Нібы не бачачы гэту ўсмешачку, пахваліў: — Усё-такі набралася духу! Дала адстаўку Глушаку! Даўно трэба было!* Мележ. *Магла распачацца спрэчка, але Сцёпка папярэдзіў яе, падкруціў агонь у лямпе і набраўся духу... Ён нават да канца не прадумаў сваёй прамовы, а прамова павінна быць самай адказнай...*

Каваль.

**НАБІР`АЦЦА Р`ОЗУМУ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Станавіцца разумнейшым, разумнець. *І дзе ні пройдзе Іванка, — людзі там розуму ад яго набіраюцца, за вілы і сякеры хапаюцца ды з ліхімі панамі змагаюцца.* Якімовіч. **НАБРАЦЦА РОЗУМУ.** *Зак. Пасынка самога [старая] баіцца трохі чапаць. Злосны і на язык востры, адсячэ адразу, аж абліжашся. Ды розуму вельмі набраўся. Над газетамі ўсё сядзіць, спусціўшы нос.* Крапіва.

**НАБІР`АЦЦА С`ІЛЫ (С`ІЛ, М`ОЦЫ).** *Незак. Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Станавіцца здаровым, дужым, рабіцца больш моцным. **Сін**.: збірацца з сіламі (у 1 знач.); убірацца ў пер̓е (у 1 знач.); убірацца ў сілу (у 1 знач.). *Аа-аа, мой сынок! Люлі, люлі, мілы! Ой, не плач ты, не крычы, набірайся сілы!* Колас. **НАБРАЦЦА СІЛЫ (СІЛ, МОЦЫ).** *Зак. Як набралася моцы матчына дачушка, паляцела да сонца пералётнай птушкай.* Купала.

**2**. Ужыв. пры дзейн., які абазначае назвы дрэў, раслін. Станавіцца больш устойлівым, трывалым, мацнейшым. **Сін**.: убірацца ў сілу (у 2 знач.); уваходзіць у сілу (у 2 знач.). *Усюды, куды ні глянеш, набіраюцца сілы маладыя дрэўцы.* Палтаран. — *Растуць, Ігнат, нашы дубы. Набіраюцца моцы, — адказаў Крылоў.* Шамякін. **НАБРАЦЦА СІЛЫ (СІЛ, МОЦЫ).** *Зак.*

**3**. Ужыв. пры дзейн. са знач. сукупнасці асоб ці абстр. прадмета. Станавіцца больш значным, магутным, надзейным. *Набіралася сіл маладая беларуская літаратура.* Шкраба. **НАБРАЦЦА СІЛЫ (СІЛ, МОЦЫ).** *Зак. [Хлопцы] хочуць, каб здарыўся цуд, каб армія, якая адступала, здала сотні гарадоў, страціла мільёны забітымі, палоннымі, набралася сілы і пагнала ворага назад.* Навуменка.

*НАБІРАЦЬ* ● **НАБІР`АЦЬ САБ`Е Ў ГАЛАВ`У** *<што>. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Упарта трымацца якой-н. думкі, намеру. **Сін**.: убіваць сабе ў галаву *што. Не набірай сабе ў галаву. Цяпер жа не дваццаты год. Я ж з табой цяпер, у крыўду не папусцімся.* Крапіва. **НАБРАЦЬ САБЕ Ў ГАЛАВУ** *<што>. Зак. Набрала сабе ў галаву: «Няма Васі жывога», і ўсё.* Пальчэўскі.

**НАБІРАЦЬ СІЛУ.** *Незак. Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Мацнець, рабіцца больш значным паводле ступені праяўлення. *Зямлю трэба паступова да сябе прыручваць, як і сябе да зямлі. Яна сілу набірае не адразу.* Гіль. *Будаваліся заводы і гідрастанцыі. Набіралі сілу маладыя калгасы.* Дайнека. *Галасок весялее, шырыцца, набірае сілу.* Кудравец. *Нясмелы водсвет раніцы пачаў набіраць сілу.* Шахавец. **НАБРАЦЬ СІЛУ.** *Зак.*

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Набываць уплыў, уладу. **Сін**.:

падымацца на ногі (у 3 знач.); станавіцца на ногі (у 3 знач.); убірацца ў пер'е (у 2 знач.); убірацца ў сілу (у 4 знач.); уставаць на ногі (у 2 знач.). *Зёлкін, бачачы, што Гарлахвацкі набірае сілу, служыць яму з усёй халуйскай адданасцю.* Шкраба. **НАБРАЦЬ СІЛУ.** *Зак.*

*НАБІТА* ● **ВОКА НАБІТА** *ў каго, чыё на чым.* Гл. вока.

**РУКА НАБІТА** *ў каго, чыя на чым, у чым.* Гл. рука.

*НАБІТАСЦЬ* ● **НАБ`ІТАСЦЬ РУК`І**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Вялікі вопыт, добры навык, спрактыкаванасць у чым-н. *Цяжэй, калі чалавек лічыць за прызнанне простую набітасць рукі, якая дазваляе без намаганняў зарыфмаваць пару лозунгаў і такім чынам «адгукнуцца» на сур'ёзную патрэбу грамадства, хоць яна не стала ўнутранай патрэбай аўтара.* Лужанін.

*НАБІЦЬ* ● **НАБІЦЬ АСКОМУ** *каму. Зак. да* **НАБІВАЦЬ АСКОМУ** *каму.*

**НАБІЦЬ ВОКА** *на чым. Зак. да* **НАБІВАЦЬ ВОКА** *на чым.*

**НАБІЦЬ ГАЛАВУ** *каму, каго чым. Зак. да* **НАБІЦЬ ГАЛАВУ** *каму, каго, на чым.*

**НАБІЦЬ КАШАЛЁК.** *Зак. да* **НАБІВАЦЬ КАШАЛЁК.**

**НАБІЦЬ НОГІ.** *Зак. да* **НАБІВАЦЬ НОГІ.**

**НАБІЦЬ ПАНЧОХУ.** *Зак. да* **НАБІВАЦЬ ПАНЧОХУ.**

**НАБІЦЬ РУКУ** *на чым, у чым. Зак. да* **НАБІВАЦЬ РУКУ** *на чым, у чым.*

**НАБІЦЬ САБЕ ГУЗ НА ЛБЕ.** *Зак. да* **НАБІВАЦЬ САБЕ ГУЗ НА ЛБЕ.**

**НАБІЦЬ <САБЕ> КІШЭНЬ.** *Зак. да* **НАБІВАЦЬ <САБЕ> КІШЭНЬ.**

**НАБІЦЬ САБЕ ЦАНУ.** *Зак. да* **НАБІВАЦЬ САБЕ ЦАНУ.**

*НАБОР* ● **НАБ`ОР СЛ`ОЎ.** *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Поўная бяссэнсіца, бяссэнсавае спалучэнне слоў, фраз. *Сільвін упершыню бачыў Уладзіміра Ільіча такім раззлаваным. —А фразы? Пустыя, звычайны набор слоў...* П.Ткачоў. *Валасы дыбам, крыўлянне, набор слоў – такія песні, кліпы ўрываюцца сёння ў нашы кватэры з тэлевізара.* Арабей.

*НАБРАЎ* ● **<ЯК, НІБ`Ы> ВАД`Ы Ў Р`ОТ НАБР`АЎ (НАБР`АЛА, -ЛІ).** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Упарта, зацята маўчаў. **Сін**.: як язык праглынуў. *— Ну чаго зноў маўчыш? Дома ад бацькі хаваешся і тут як вады ў рот набраў, — прыхінулася да яго Гэлька. — Пра што думаеш?* Грахоўскі. *Другім разам, чуючы гэта, жартавала б з яе, смяялася б, а цяпер — як вады ў рот набрала.* Далідовіч. *Манькавічы, столькі гадоў ахвочыя да навін, на гэты раз як вады ў рот набралі — ані слова пра прыезд зямлячкі.* Праскураў. *У той дзень у школе сынкі чыноўнікаў і крамнікаў — нібы вады ў рот набралі.* Карпюк. *Давайце*

*пытанні! Чаго вады ў рот набралі? Як за вугламі, дык усяго ў нас наслухаешся, а як прыехаў чалавек, дык маўчыцё!..* Галавач. *Што будзем рабіць, мужчыны? Чаго ў рот вады набралі?* Пташнікаў. *Бач, злыдзень! Маўчыць! Сам жа цягнуў усё да апошняга вужышча, каб ты павесіўся на ім. А тут вады ў рот набраў.* Паўлаў.

*НАБРАЎШЫ* ● *Маўчаць, сядзець, стаяць* і пад. **ЯК (НІБ`Ы, Б`ЫЦЦАМ) ВАД`Ы Ў Р`ОТ НАБР`АЎШЫ.** *Акал. Разм.* Нічога не гаворачы, захоўваючы зацятае маўчанне. **Сін**.: як магіла; як рыба; як сцяна. *Толькі Макару было не да смеху. Ён маўчаў, як вады ў рот набраўшы.* Бядуля. *Правёў я першую частку праграмы і думаю — як тут прымусіць Тарадру прызнацца?.. Бо яна, брат, стаіць і маўчыць, як вады ў рот набраўшы.* Брыль. *[Аня] стаяла і маўчала, быццам вады ў рот набраўшы.* Машара. *Брыгадзіры маўчалі, нібы набраўшы ў рот вады.* Кузьмянкоў. *Мятлюг, мусіць, адчуваў сябе ніякавата і таму сядзеў, як вады ў рот набраўшы, адно лыпаў вачыма.* Сабаленка.

*НАБРАЦЦА* ● **НАБРАЦЦА ДУХУ.** *Зак. да* **НАБРАЦЦА ДУХУ.**

**НАБРАЦЦА РОЗУМУ.** *Зак. да* **НАБРАЦЦА РОЗУМУ.**

**НАБРАЦЦА СІЛЫ.** *Зак. да* **НАБРАЦЦА СІЛЫ.**

*НАБРАЦЬ* ● **НАБРАЦЬ СІЛУ.** *Зак. да* **НАБІРАЦЬ СІЛУ.**

*НАБЭДРЫКІ* ● *Сядзець, ляжыць* **ЯК НА СВІНН`І НАБ`ЭДРЫКІ.** *Абл. Акал. Праст. Іран.* Нязграбна, дрэнна, не аблягаючы цела. **Сін**.: як на калу; як на карове сядло. *Ён апрануў паліто, глянуў на сябе ў люстэрка і не пазнаў: перад ім стаяў чужы, не ў меру тоўсты мужчына ў куртатым нязграбным лапсардаку, які ляжаў на ім, як на свінні набэдрыкі.* Дамашэвіч. [Параўн. у Янкоўскага, с. 297: *падыходзіць як свінні набэдрыкі.*]

*НАБЯЖЫЦЬ* ● *Жыць* **ЯК НАБЯЖ`ЫЦЬ.** *Акал. Разм.* Так, як прыходзіцца, як здараецца.**Сін**.: адным днём. *— Я не ведаю, сынок, як вы будзеце жыць,.. — Жыць? Гм... Будзем жыць як набяжыць, — пажартаваў Платон.* Пестрак. *[Федзя:] Слухай, Ядзя. Жыццё штука такая: нельга жыць як набяжыць.* Козел.

*НАВАРЫЦЬ* ● **НАВАР`ЫЦЬ (ЗАВАР`ЫЦЬ) П`ІВА.** *Зак. Устар. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Распачаць складаную, непрыемную справу. **Сін**.: агарод гарадзіць; заварыць кашу. **Ант**.: расхлёбваць кашу. *[Ціхон:] Жонка, а жонка! Будзе бяда! Паглядзі, як у найяснейшай кароны вус адзін уніз, а другі ўгору задраўся. Ідзі ты наперад ды пакланіся яму.. [Куліна:] Што ты мяне пасылаеш! Ты сам наварыў піва, сам і папівай здароў, я баюся.* Дунін-Марцінкевіч. *[Князь Глінскі:] Цар Іван, нам шле лісты і прапануе дапамогу, — калі мы тут заварым піва, ад якога ў Кракаве званы зазвоняць.* Клімковіч.

*НАВАСТРЫЦЬ* ● **НАВАСТР`ЫЦЬ В`УШЫ, (В`УХА)**. *Зак. Разм.* Ужыв.

пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць уважліва прыслухоўвацца, насцеражыцца. **Сін.**: наставіць вушы; натапырыць вушы; развесіць вушы; <увесь> ператварыўся ў слых. *«Які ж гэта лось у лесе паваліўся, што ты рассыпаешся такім дробным макам? Ці, можа, мне пачасціла?» – падумаў Лабановіч і навастрыў вуха.* Колас. *Віктару не спадабалася, што такая размова вядзецца пры малых. Нават Кацька, і тая «навастрыла вушы».* Шамякін. *Васіль насцярожыўся, навастрыў вушы* Макаёнак.

**НАВАСТРЫЦЬ ЛЫЖЫ** *куды, адкуль. Зак. да* **ВАСТРЫЦЬ ЛЫЖЫ** *куды, адкуль.*

*НАВАТ* ● **(НАВАТ) ВОЙКНУЦЬ НЕ ПАСПЕЎ.** Гл. паспеў.

**НАВАТ ВОКАМ НЕ ВЯДЗЕ.** Гл. вядзе.

**<НАВАТ> ВОКАМ НЕ МАРГНУЎ.** Гл. маргнуў.

**НАВАТ НЕ НАЧАВАЎ.** Гл. начаваў.

*НАВЕКІ* ● **ЗАСНУЦЬ НАВЕКІ.** Гл. заснуць.

*НАВЕРХ* ● **ВЫПЛЫВАЦЬ НАВЕРХ.** Гл. выплываць.

**ВЫХОДЗІЦЬ НАВЕРХ.** Гл. выходзіць.

*НАВЕСЦІ* ● **НАВЕСЦІ ГЛЯНЕЦ** *на што, дзе. Зак. да* **НАВОДЗІЦЬ ГЛЯНЕЦ** *на што, дзе.*

**НАВЕСЦІ МАСТЫ.** *Зак. да* **НАВОДЗІЦЬ МАСТЫ.**

**НАВЕСЦІ ЦЕНЬ** *на каго, на што. Зак. да* **НАВОДЗІЦЬ ЦЕНЬ** *на каго, на што.*

**НАВЕСЦІ ЦЕНЬ НА ПЛЯЦЕНЬ.** *Зак. да* **НАВОДЗІЦЬ ЦЕНЬ НА ПЛЯЦЕНЬ.**

**НАВЕСЦІ ЦЕНЬ НА СВЕТЛЫ ДЗЕНЬ.** *Зак. да* **НАВОДЗІЦЬ ЦЕНЬ НА СВЕТЛЫ ДЗЕНЬ.**

*НАВЕШАЦЬ* ● **НАВЕШАЦЬ ЛАПШЫ <НА ВУШЫ>** *каму. Зак. да* **ВЕШАЦЬ ЛАПШУ <НА ВУШЫ>** *каму.*

**НАВЕШАЦЬ САБАК** *на каго, каму. Зак. да* **ВЕШАЦЬ САБАК.**

**НАВЕШАЦЬ ЯРЛЫКІ** *<каму, на каго, на што>. Зак. да* **ВЕШАЦЬ ЯРЛЫКІ** <*каму, на каго, на што*>.

*НАВЕШВАННЕ* ● **НАВ`ЕШВАННЕ ЛАПШ`Ы НА В`УШЫ** *каму. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Праст. Неадабр.* Імкненне падмануць каго-н., падман. **Сін.**: адвод вачэй; гульня ў ката і мышку; дымавая заслона; пацёмкінская вёска; пусканне пылу ў вочы; пусканне туману; траянскі конь (у 1 знач.). *Каму ж патрэбна гэта хлусня, навешванне лапшы на вушы простым людзям?* «Нар. воля». *За навешванне лапшы на вушы гледачоў панясуць адказнасць вельмі хутка ўсе, у тым ліку – і выканаўцы гэтай «брыдоты», і яе кіраўнікі.* «ЛіМ».

**НАВ`ЕШВАННЕ ЯРЛЫК`ОЎ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск.*

*Разм. Неадабр.* Неабгрунтаванае абвінавачванне з аднабаковай, шаблоннай ацэнкай каго-н. **Сін**.: прышыванне ярлыкоў. *Дзе-нідзе застаецца звычка рэгламентаваць ацэнкі мастацкіх твораў, усё яшчэ існуе пагроза навешвання ярлыкоў у выпадку смелых крытычных абагульненняў, не так і рэдка сустракаецца падмена сацыяльнага аналізу лёгкім маральным каментарыем.* Каваленка. *І зусім ужо брыдка, калі ідзе падтасоўка, фальсіфікацыя, а то і бяздумнае навешванне ярлыкоў — змрочныя адгалоскі даўно асуджаных часоў.* «ЛіМ».

*НАВЕШВАЦЬ* ● **НАВЕШВАЦЬ ЯРЛЫКІ** *<каму, на каго, на што>.*

*НАВОДЗІЦЬ* ● **НАВ`ОДЗІЦЬ ГЛ`ЯНЕЦ** *на што, дзе. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Прыхарошваць што-н., скрываючы недахопы. *У найбольш поўнае пасмяротнае пысінскае выданне ў адпаведнасці з нашай даўняй традыцыяй усюды і ва ўсім наводзіць глянец не ўключаны з кнігі «Наш дзень» ні адзін верш культаўскага характару – з услаўленнем Леніна і Сталіна.* Бугаёў. *У апошнім нумары часопіса «Амерыка», закліканага наводзіць глянец на заакіянскую рэчаіснасць, многа гаворыцца аб нейкай рэвалюцыі ў галіне грамадзянскіх правоў, якая нібыта адбылася ў 60-я гады.* «Звязда». **НАВЕСЦІ ГЛЯНЕЦ** *на што, дзе. Зак.*

**НАВОДЗІЦЬ МАСТЫ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Наладжваць кантакты з кім-, чым-н. *Увогуле пасля нечаканай іхняй сваркі ён бачыў Клаву разы са два — і то зводдаля, мелькам. У яго і ў думках не было наводзіць разбураныя масты.* Б.Стральцоў. *Бачыш, як Віця павуціннне плёў — у Дзяржынск, іншыя раёны, наводзіў масты з дружбакамі з Украіны, Паволжа. Складвалася фірма па крадзяжы і збыце.* «Звязда». **НАВЕСЦІ МАСТЫ.** *Зак.*

**НАВ`ОДЗІЦЬ Ц`ЕНЬ** *на каго, на што. Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Няславіць, ачарняць, выстаўляць у непрыглядным святле каго-, што-н. **Сін**.: абліваць граззю *каго, што*; вешаць сабак *на каго, на што;* выліваць памыі *на каго;* выліваць бруд на галаву *каго*; закідваць граззю *каго;* кідацца граззю; кідаць каменем *у каго;* кідаць цень *на каго, на што* (у 1 знач.); ліць бруд *на каго;* мазаць дзёгцем *каго, што;* мяшаць з граззю *каго, што;* мяшаць з зямлёй (у 3 знач.); падтоптваць пад ногі (у 2 знач.); таптаць у гразь *каго, што. Я не хачу наводзіць на вас цень...* Караткевіч. *Я не хачу наводзіць цень на дзейнасць гэтай установы, адаць, тое, што яна робіць, вельмі патрэбна нам усім.* «ЛіМ». **НАВЕСЦІ ЦЕНЬ** *на каго, на што. Зак. [Самарос] папракнуў сябе за*

*тое, што праз меру накляпаў на Каршукова, расказваючы Галаю пра гаворку з ім. Навёў на чалавека цень.* Асіпенка.

**НАВ`ОДЗІЦЬ Ц`ЕНЬ НА ПЛЯЦ`ЕНЬ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Наўмысна ўносіць няяснасць у якую-н. справу, заблытваць каго-н. **Сін**.: каламуціць ваду (у 2 знач.); наводзіць цень на светлы дзень; напускаць туману. *Спрэчку спыніў Віктар Панцак. — Не наводзь цень на пляцень! — цыкнуў ён на Колю. — Ніна сходзіць да Міны Капітонавіча і распытае сама.* Жычка. *Яе [Аніна] смелае і гарачае выступленне прымусіла замаўчаць занадта заўзятых, што наводзілі цень на пляцень. Яна стала на абарону невінаватых.* Кобец-Філімонава. **НАВЕСЦІ ЦЕНЬ НА ПЛЯЦЕНЬ.** *Зак. Яшка што хочаш можа перавярнуць дагары нагамі, навесці цень на пляцень.* «Полымя».

**НАВ`ОДЗІЦЬ Ц`ЕНЬ НА СВ`ЕТЛЫ ДЗ`ЕНЬ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Наўмысна ўносіць няяснасць у якую-н. справу, заблытваць каго-н. **Сін.:** каламуціць ваду (у 2 знач.); наводзіць цень на пляцень; напускаць туману. *Качанок кіпеў ад абурэння: распеспаразайся парторг, наводзіць цень на светлы дзень. Кідаў позіркі на дырэктара: спыні!* Шамякін. **НАВЕСЦІ ЦЕНЬ НА СВЕТЛЫ ДЗЕНЬ.** *Зак.*

*НАВЫВАРАТ* ● **ВЫВАРОЧВАЦЦА НАВЫВАРАТ.** Гл. выварочвацца.

**ВЫВАРОЧВАЦЬ НАВЫВАРАТ** *каго, што.* Гл. выварочваць.

*НАВЫЛЁТ* ● **БАЧЫЦЬ НАВЫЛЁТ.** Гл. бачыць.

*НАВЯДЗЕННЕ* ● **НАВЯДЗ`ЕННЕ МАСТ`ОЎ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Наладжванне кантактаў з кім-н. *Савет Эканамічнай Узаемадапамогі падаў сігнал да навядзення мастоў у інтарэсах усіх еўрапейскіх народаў.* «Звязда».

*НАВЯЗНУЦЬ* ● **НАВ`ЯЗНУЦЬ У ЗУБ`АХ** *каму. Зак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Моцна надакучыць. **Сін**.: блытацца пад нагамі *ў каго*; мазоліць вочы *каму*; муляць вочы *каму*; набіваць аскому *каму* (у 1 знач.). *Развесялілі вы, шаноўны пане, з багатай магнацкай званіцы. Гэтыя словы аб «гаворцы» нам у зубах навязлі.* Караткевіч. *«Акселерат» — такое было слова, яно за дзесяць год вучобы навязла ў зубах, з ім Ігар зжыўся, як з прозвішчам ці школьнаю мянушкай...* Радкевіч. *[Сямёнаўна:] Думаеш, мне самой гэтыя халтуркі ў зубах не навязлі?!* І *трэба яны мне, як свінні завушніцы!* Петрашкевіч.

*НАВЯРНУЦЬ* ● **НАВЯРН`УЦЬ ГАЛАВ`ОЙ.** *Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Загінуць. **Сін**.: загрымець касцямі (у 1 знач.); злажыць <свае> косці; знайсці сабе магілу *дзе;* класці галаву *за каго, за што дзе;* легчы касцьмі (у 1 знач.); легчы трупам; ляжаць у <сырой>

зямлі; накладаць галавой; памінай як звалі (у 1 знач.); парыць зямлю; парыць косці *дзе;* парыць у зямлі косці; спаць вечным сном; спаць у сырой зямлі; яму засквaрыць. *—Вы, грамада, гаспадары гэтаму дому. Ці вам патрэбна, каб стары гаспадар вярнуўся? —Ды няхай ён галавой наверне! —чуецца голас.* Колас. *Падалося Алесю, што нешта белае матнулася ў Лысаковічавых у варотах... А пазалетась быў трывожны час. І набегла Банькоўчыку даўно, яшчэ вясною чутая пагроза: «Навернеш галавою».* Калюга.

*НАГА* ● **АДН`А НАГ`А Т`УТ ДРУГ`АЯ Т`АМ.** *Акал. Разм. Часам жарт.* Ужыв. пры дзеясл. зак. тр. Вельмі хутка (збегаць, схадзіць куды-н.). **Сін**.: на адной назе. — *Вы не зачыняйцеся, я зараз, адна нага тут другая там! — Сусед выбягае.* Гіль. *Не бойся, Пракоп. Адна нага тут другая там. І каб усё было як след запакавана.* Каліна.

**<І> НАГ`А НЕ БЫЛА́** *чыя дзе. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. не бываў дзе-н., не наведваў каго-н. **Сін**.: нага не ступала *каго, чыя куды, дзе. [Сілівей:] З таго часу мая і нага [у манастыры] ні разу не была, а вы кажаце, як быўшы манах...* Каваль. *Стрыечны брат зганьбіў прозвішча, ваша міласць.. Будзьце ласкавы, дайце веры: пяць год ягоная нага на парозе майго дома не была.* Самуйлёнак.

**ІСЦІ <НАГА> У НАГУ** з *кім, з чым.* Гл. ісці.

**КАБ І НАГА НЕ БЫЛА** *чыя <дзе>*; **КАБ І НАГ`І НЕ БЫЛ`О** *чыёй <дзе>. Выкл. Праст. Пагард.* Выказванне катэгарычнага патрабавання, каб хто-н. перастаў заходзіць да каго-н., бываць дзе-н. *[Сцяпан:] А ты, каханенькі, родненькі, негадзяй, вірутнік з-пад цёмнай гвязды, вон з маёй хаты, каб твая і нага тут не была!* Купала. — *Я прыйду праз дзесяць дзён. —Вон! Каб і нага твая...* Чорны. *Няхай ідзе вон з хаты! Вон, каб і нагі яго не было!* Баранавых. *Вон, гіцаль, каб і нагі таёй у маёй хаце не было. Адрасу ён захацеў!* Сачанка.

**НАГ`А ЗА НАГ`У** <u>ісці (пайсці), плесціся, брысці</u> і пад. *Акал. Разм.* Вельмі марудна, павольна, з нежаданнем. **Сін**.: з нагі на нагу. *Брава-Жыватоўскі з Зазыбам ішлі, што завецца, нага за нагу.* Чыгрынаў. *Боганчыку не хацелася іх чакаць, і ён пайшоў памалу сцежкай, нага за нагу.* Пташнікаў. *Марцінаў конь плёўся нага за нагу, самавольна збочваў з тропу, скуб маладыя вярхі прыдарожных ялінак.* Карпюк.

**НАГ`А НЕ СТУП`АЛА** *каго, чыя куды, дзе. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. не бываў, не жыў, не заходзіў куды-н. Часцей пра глухамань. **Сін**.: <і> нага не была *чыя дзе. А як надарыцца часамі табе, вандруючы лясамі, найсці на неруш, дзе ніколі ніякай Тэклі, ні Аўдолі нага ні разу не ступала і вока іх не зазірала!* Колас. *Было ясна, што сюды не ступала яшчэ нага грыбніка.* Ваданосаў. *Зацякае ручаіна ў такія месцы, дзе, здаецца, не ступала нага чалавека.* Пестрак. *Людскою*

*думкаю ён [Бушмар] не цікавіўся. Ён быў бы рад, калі нават чалавечая нага не ступала на яго хутар, каб ніводная жывая істота.. не з'яўлялася на гэты бок лесу.* Чорны.

**НАГ`А НЕ СТ`УПІЦЬ (НЕ СТУП`ÍЛА)** *каго, чыя куды. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. не з'явіцца дзе-н. **Сін**.: <і> нагі не будзе *чыёй дзе. Любою цаной мы павінны ўтрымаць лес за сабою, каб нага ворага не ступіла ў яго.* Пестрак.

<u>*Як, што, чаго*</u> **Х`ОЧА (ЗАХ`ОЧА) Л`ЕВАЯ НАГ`А (П`ЯТКА)** *каго, чыя. У безас. ужыв. Разм. Іран.* (Як, што, чаго) захочацца каму-н. Пра недарэчныя, безразважныя ўчынкі, дзеянні таго, хто лічыцца толькі з сваім жаданнем. *Для некаторых свабода раўназначная ўсёдазволенасці — маўляў, рабі, што твая левая нага хоча.* «Звязда». *Немцы па закону не маюць права абвінаваціць ва ўсёй гэтай гісторыі Віктара ці каго іншага ў мястэчку, але каб гэта існавалі для іх законы, існавала права. У іх цяпер закон — як у галаву стукне, чаго захоча левая пятка Рэннен-кампфа.* Арабей.

<u>*Патрэбны, трэба*</u> **ЯК САБ`АКУ П`ЯТАЯ НАГ`А.** *Акал. Праст. Іран.* Зусім не, нікольні не (патрэбны каму-н.). **Сін**.: як дзірка ў мосце; як зайцу стоп-сігнал; як леташні снег; як пятае кола ў возе; як рыбе парасон. *Патрэбны некаму твае паперкі як сабаку пятая нага!..* Паслядовіч. *Сідар адклаў лыжку і засмучана паглядзеў у акно. — Трэба мне гэтая служба як сабаку пятая нага.* Навуменка. *Патрэбен ты некаму як сабаку пятая нага.* Дамашэвіч. *—Значыць, ідзеш туды, каб з ім пабачыцца... —Патрэбен ён мне як сабаку пятая нага, — запярэчыла Рэня.* Сіняўскі.

*НАГАВІЦЫ* ● **ПРАЦІРАЦЬ НАГАВІЦЫ** *дзе.* Гл. праціраць.

*НАГАМІ* ● **АДБІВАЦЦА РУКАМІ І НАГАМІ** *ад чаго.* Гл. адбівацца.

**АДМАХВАЦЦА РУКАМІ І НАГАМІ** *ад чаго.* Гл. адмахвацца.

**АДЧУВАЦЬ ГЛЕБУ ПАД НАГАМІ.** Гл. адчуваць.

**БЛЫТАЦЦА ПАД НАГАМІ** *ў каго.* Гл. блытацца.

**ВАЛЯЦЦА ПАД НАГАМІ.** Гл. валяцца.

**ВЫНЕСЦІ ЎПЕРАД НАГАМІ** *каго.* Гл. вынесці.

**ГРУНТ ПАД НАГАМІ.** Гл. грунт.

**ГРУНТ ХІСТАЕЦЦА ПАД НАГАМІ** *чыімі, у каго.* Гл. грунт.

**ГУБЛЯЦЬ ГРУНТ ПАД НАГАМІ.** Гл. губляць.

**ДАГАРЫ НАГАМІ.** Гл. дагары.

**З РУКАМІ І НАГАМІ.** Гл. рукамі.

**ЗЯМЛЯ ГАРЫЦЬ ПАД НАГАМІ** *каго, у каго, чыімі.* Гл. зямля.

**ПЕРАВАРОЧВАЦЦА ДАГАРЫ НАГАМІ.** Гл. пераварочвацца.

**ПЕРАВАРОЧВАЦЬ ДАГАРЫ НАГАМІ** *што.* Гл. пераварочваць

**РУКАМІ І НАГАМІ.** Гл. рукамі.

**СТАВІЦЦА ДАГАРЫ НАГАМІ.** Гл. ставіцца.

**<ЯК, НІБЫ> НЕ СВА`ІМІ НАГ`АМІ** _ісці (пайсці), ступаць (ступіць)._ *Акал. Разм.* Стомлена, зморана. *Алесь нібы не сваімі нагамі ступаў па тратуары.* Галавач. *Нарабілася [Хадоська] так, што ішла цёмным балотам к свайму агеньчыку як не сваімі нагамі.* Мележ. *Але ж трэба ісці дахаты. Як ісці? Валя сабралася з сіламі і пайшла як не сваімі нагамі.* Пестрак. *Валя не сваімі нагамі ступіла некалькі крокаў, яе падштурхнулі ззаду. Яна адчула сябе слабай, бездапаможнай.* Дамашэвіч. *Ігнат ішоў не сваімі нагамі.* А.Жук.

*НАГАХ* ● **ЗВЯЗВАЦЬ ПА РУКАХ І НАГАХ** *каго.* Гл. звязваць.

**КАЛОС НА ГЛІНЯНЫХ НАГАХ.** Гл. калос.

**ЛЕДЗЬ СТАЯЦЬ НА НАГАХ.** Гл. стаяць.

**НА НАГ`АХ.** *Разм.* **1**. *Акал.* Стоячы (рабіць што-н.). *[Прафесар:] Прывык у лабараторыі больш на нагах быць, чым сядзець, дык і вас не пасадзіў. Сядайце ж хоць зараз.* Галавач. *Трохі пакрактаў, пакуль нацягнуў шкарпэткі. Але ўвогуле на нагах адчуў сябе чалавекам, вартым гэтага высокага звання.* Шамякін.

**2**. *Акал.* Не кладучыся ў пасцель (пераносіць хваробу). *Матка і раней прастуджвалася, хварэла, але ўсё, бывала, на нагах. Закруціць горла анучаю, пакашляе, пастогне, мыючы што ці варачы есці, ды зноў нічога.* Арабей. *Памёр жа вунь ад такой раны ў галаву партызан.., хаця перад тым двое сутак быў на нагах і чуў сябе някепска.* Быкаў.

**3**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Устаўшы пасля сну (быць). *Устаў я раней за сонца. Марылька таксама была ўжо на нагах, яна гатавала снеданне.* Сабаленка. *Бывала, яшчэ сонца не ўзыдзе, а Маланея ўжо на нагах.* Кірэенка. *Калі я прачнуўся, Выгановіч ужо быў на нагах.* Кусянкоў.

**4**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. У руху, у рабоце, у пастаянным клопаце (быць). *Багата перажылі за дні вызвалення партызаны Саколіча. Дні і ночы былі яны на нагах.* Лынькоў. *Уночы санітаркам больш работы, рэдка даводзіцца прысесці, усё ў хадзе, усё на нагах.* Пальчэўскі. *Мінута — батальён на нагах. Бясшумна цянююць на Прыпяць.* Колас.

**5**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Здаровы, не хворы. *Працягнула яна яшчэ з месяц. І такі тое, чаго я баяўся, здарылася. Яшчэ раніцаю хадзіла, была на нагах, як звычайна...* Гарэцкі. *Трэба спецыяльная машына — усюдыход. У якой медустанове ёсць такая машына? Хіба ў абласной бальніцы. Але хто дамовіцца? Хто яе [Полю] паслухае? Быў бы хоць на нагах Віктар.* Шамякін.

**НА НАГАХ НЕ ТРЫМАЦЦА.** Гл. трымацца.

**У НАГ`АХ.** *Акал. Разм.* **1**. У тым месцы на пасцелі, куды кладуць ногі (стаяць, сядзець і пад.). **Ант**.: у галавах. *[Машэка] у нагах з пакораю сядаў, як здаўна, песціў і галубіў і словы чулыя складаў.* Купала. *Падышоўшы да ложка, яны абое сталі ў нагах і зноў глядзелі на яго, усё роўна як пазнавалі.* Пташнікаў.

**2**. *чаго, у каго.* Унізе. *Белы хорам стаяў недаступнай сцяной, грозна, думна глядзеў на прыволле. У нагах у яго рассцілаўся абшар хвоек гонкіх і пахані чорнай.* Купала. *У нагах [дуба] трава нізка сцелецца, а вакол ляжыць травяністы луг.* Колас.

*НАГІ* ● **ЗБІВАЦЦА З НАГІ.** Гл. збівацца.

**З НАГ`І НА НАГ`У.** *Акал. Разм.* Вельмі марудна, павольна (ісці, плесціся, пераступаць і пад.). **Сін**.: нага за нагу. *Так і хочацца легчы тут і нікуды не ісці. Але ён [Сцяпан] пляцецца далей.. з нагі на нагу...* Пестрак. *З узгорка павольна спускаўся чалавек. Ён перакідаўся з нагі на нагу і ішоў да лесу.* Чорны.

**І НАГІ НЕ БУДЗЕ** *чыёй дзе.* Гл. будзе.

**КАБ І НАГІ НЕ БЫЛО** *чыёй <дзе>.* Гл. нага.

**КУЛЬГАЦЬ НА АБЕДЗВЕ НАГІ.** Гл. кульгаць.

**СКАКАЦЬ НЕ З ТОЙ НАГІ.** Гл. скакаць.

**УСТАЦЬ З ЛЕВАЙ НАГІ.** Гл. устаць.

**УСТАЦЬ НЕ З ТОЙ НАГІ.** Гл. устаць.

**ЯК БОТ <З ЛЕВАЙ НАГІ>.** Гл. бот.

*НАГОЙ* ● **АДНОЙ НАГОЙ СТАЯЦЬ** *у чым, на чым.* Гл. стаяць.

**АДНОЙ НАГОЙ СТАЯЦЬ У МАГІЛЕ.** Гл. стаяць.

**НАГОЙ ДЗВЕРЫ АДЧЫНЯЦЬ** *дзе, каго, чаго.* Гл. адчыняць.

**НЕ <ЛЕВАЙ> НАГОЙ СМАРКАЦЦА.** Гл. смаркацца.

**НІ НАГ`ОЙ.** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. *куды, да каго.* Зусім не хадзіць куды-н., не бываць у каго-н. *Больш ты сюды — ні нагой. Досыць мне сораму.* Караткевіч. *У Мірны ж Ірына і сама ні нагой, і свайго не пускала.* Ласкоў. *[Мульцік:] Чаго ты на ўвесь свет злуеш? Дзяцей разагнаў, яны да цябе ні нагой, вось і злуеш...* Дудараў.

**2**. *адкуль.* Зусім не выходзіць, не адлучацца адкуль-н. *І хоць той-сёй з артыстаў, бывае, пад настрой і любіць паскардзіцца на цяжкі характар Мікалая Мікалаевіча, — са студыі ні нагой.* «ЛіМ».

**НІ Ў ЗУБ <НАГОЙ>.** Гл. зуб.

*НАГОНІЦЬ* ● **ЛІХА НАГОНІЦЬ** *каго.* Гл. ліха.

*НАГУ* ● **З НАГІ НА НАГУ.** Гл. нагі.

**ІСЦІ <НАГА> У НАГУ** *з кім, з чым.* Гл. ісці.

**ЛЁГКІ НА НАГУ.** Гл. лёгкі.

**НА АДН`У НАГ`У.** *Акал. Разм.* **1**. Вельмі дружна, у поўнай згодзе (жыць). **Сін**.: душа ў душу (у 1 знач.); звон у звон; у ладу *<з кім>*; як

песню пець. **Ант**.: на нажах *з кім;* як кот з сабакам. *Ты дырэктар школы, я старшыня сельсавета. Жылі на адну нагу, адзін без аднаго выпіць ні разу не селі.* А.Жук.

**2**. з *кім.* Як роўны з роўным (стаць, станавіцца, быць з кім-н.). **Сін**.: на роўную нагу. *Цяпер жа гэты палкоўнік, высокі чын, нібы спусціўся да яго са свайго верху, стаў з ім на адну нагу, больш таго — падзяліў з ім, Асавіком, яго цяжкі лёс.* Дамашэвіч.

**НА БЛ`ІЗКУЮ НАГ`У** быць, сысціся і пад. *Акал. Разм.* Вельмі блізка, у блізкіх, сяброўскіх адносінах (быць з кім-н.). **Сін**.: на кароткай назе *з кім*; на ты (у 1 знач.). *Адным словам, праз пару мінут з хлопчыкам мы былі на блізкую нагу, а ў кірпатай жанчыны насцярожанасць рассеялася.* Карпюк. *Галя ніяк не можа, каб от так сысціся адразу з ёй [Альбінай] на блізкую нагу...* Сабаленка.

**НА Б`ОСУЮ НАГ`У.** *Недапас. азн. Разм.* Без панчохаў, шкарпэтак і пад. быць абутым у што-н. *Стары, сухаваты баўэр, у дзіравым капелюшы, у дзеравяшках на босую нагу, і сам спалохаўся.* Брыль. *Вера ўбегла ў паркалёвым плацці і ў беленькіх тапачках на босую нагу.* Грахоўскі. *[Хворыя] як былі — у бальнічных халатах, у піжамах, у пантофлях на босую нагу — падаліся за вароты.* Арабей.

**НАГА ЗА НАГУ.** Гл. нага.

**НА КАР`ОТКУЮ НАГ`У** жыць, станавіцца і пад. *Акал. Разм.* Вельмі блізка, па-сяброўску. *Віктар паспеў заўважыць, што Коканаў, відаць, з загадчыкам аддзела жыў на кароткую нагу: называў яго на «ты», абыякава выслухоўваў яго заданні і нават не паводзіў брывом, калі іх неадкладна трэба было выконваць.* Даніленка. *Нупрэеў лічыўся чалавекам сухаватым, у абыходжанні са сваімі падначаленымі ён ніколі не ставіўся, як кажуць, на кароткую нагу, мог нават часамі ні за што нагрубіць чалавеку.* Васілёнак.

Ставіцца, стаяць і пад. **НА Р`ОЎНУЮ НАГ`У** з *кім. Акал. Разм.* Як роўны з роўным. **Сін**.: на адну нагу (у 2 знач.). *Пан Скірмунт бярэ петыцыю, ускідае вочы. На твары абразлівая ўсмешка. —Гм! На роўную нагу са мною становяцца: грамадзяне пішуць да грамадзяніна!* Колас. *Яшка Галпан станавіўся з намі на роўную нагу.* Пянкрат. *[Пранушка:] Які-небудзь ранейшы газетнік Юрась Нявада, які нядаўна сядзеў вось тут за гэтым самым сталом, стаў са мною на роўную нагу.* Чорны. *Калі ж пагрэшнасці ў рабоце прыбора з'явіліся не па нашай віне.., будзе Лакавец весела пасмейвацца з «работнічкай», з намі стане на роўную нагу, пачне сыпаць анекдотамі...* Радкевіч.

**НАСТУПАЦЬ НА НАГУ** *каму.* Гл. наступаць.

**НА ЎС`Ю НАГ`У.** *Акал. Разм.* **1**. Шырокім, хуткім крокам (ісці, хадзіць і пад.). *Эх ты! Я ў сваёй хаце сяджу, я па сваёй зямлі хаджу —*

*і днём і ноччу. На ўсю нагу хаджу і тупаю яшчэ...* Брыль. *Марыя ішла на ўсю нагу, старалася хутчэй дадому.* А.Жук.

**2**. Багата, раскошна (жыць, гаспадарыць). **Сін**.: на поўную губу (у 3 знач.); на шырокую нагу (у 1 знач.). *А што — жыццё новае настала. Каб мне, старому, гадоў пятнаццаць скінуць, то жыў бы на ўсю нагу.* Адамчык.

**НА ШЫР`ОКУЮ НАГ`У.** *Разм.* **1**. *Акал.* Багата, раскошна, без абмежаванняў у сродках (жыць, пажыць, пражыць). **Сін**.: на поўную губу (у 3 знач.); на ўсю нагу (у 2 знач.). *Амерыка жыла, што называецца, на шырокую нагу. Амерыка весялілася. Амерыка тлусцела.* Лынькоў. *Сапраўды, ходзяць, радуюцца, што могуць, урэшце, пажыць на шырокую нагу.* «ЛіМ».

**2**. *Акал.* З вялікім размахам (ставіць, гуляць і пад.). *Назіраючы, мабыць, за песнямі народа, за скамарохамі, яны [паны] спрабавалі такія відовішчы ставіць на шырокую нагу.* Карпюк. *Што і казаць, падпольны бізнес музычнымі інструментамі, музычнай апаратурай быў пастаўлены на шырокую нагу.* «ЛіМ». *Эх! Пагуляў я тады, можна сказаць, на шырокую нагу.* Бажко.

**3**. *Азн. ці вык.* Багаты, раскошны, без абмежаванняў. Часцей пра жыццё. *«Нясун» — той жа злодзей, як бы ён ні маскіраваўся. Адсюль і жыццё не па працоўных даходах, бесклапотнае, на шырокую нагу.* «Звязда».

**ПАДСТАЎЛЯЦЬ НАГУ** *каму.* Гл. падстаўляць.

**<САМ> ЧОРТ НАГУ ЗЛОМІЦЬ** *<дзе, у чым>.* Гл. чорт.

**У НАГ`У** <u>*ісці, крочыць і*</u> пад. *Акал. Функц. не зам.* Мерна, рытмічна, адначасова з другімі ступаючы то левай, то правай нагой. *Зноў ішлі. І вясёлыя, маладыя — маўчалі... І ў нагу не ішлося, збіўся крок недзе, мусіць, там, каля хлапчука.* Мурашка.

*НАДАВАЦЬ* ● **НАДАВ`АЦЬ ГАРБУЗ`ОЎ** *каму. Зак. Мнагакр. да* даваць гарбуз *каму. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Шмат разоў адмовіць таму, хто сватаецца. *[Мікіта:] Яна хлапцоў вунь колькі перабрала і гарбузоў з паўсотні надавала.* Клімковіч.

*НАДАРВАЦЬ* ● **НАДАРВАЦЬ ЖЫВАТЫ <АД СМЕХУ>.** *Зак. да* **НАДРЫВАЦЬ ЖЫВАТЫ <АД СМЕХУ>.**

**НАДАРВАЦЬ СІЛЫ** *каго, чые. Зак. да* **НАДРЫВАЦЬ СІЛЫ** *каго, чые.*

*НАДВАЕ* ● **БАБКА НАДВАЕ ВАРАЖЫЛА.** Гл. бабка.

*НАДВОЕ* ● **БАБКА НАДВОЕ ВАРАЖЫЛА.** Гл. бабка.

*НАДВОР'Е* ● **ЗА Д`ОБРАЕ НАДВ`ОР'Е** <u>*выбірацца, ісці*</u> і пад. *Акал. Разм.* Пакуль не позна, пакуль спрыяюць абставіны, умовы. **Сін**.: за пагодай. *Час падумаць аб здачы школы — воласці або непасрэдна*

*заступніку, які мог з'явіцца тут кожны дзень, а самому выбірацца за добрае надвор'е.* Колас. *Грошы ў мяне трохі ёсць, рахманага агента мы знойдзем. Раздабудзе нам пашпарты, і мы рушым за добрае надвор'е...* «Полымя».

*НАДЗЕІ* ● **ПАДАВАЦЬ НАДЗЕІ.** Гл. падаваць.

*НАДЗЕЦЬ* ● **НАДЗЕЦЬ АБРОЦЬ** *на каго, на што. Зак. да* **НАДЗЯВАЦЬ АБРОЦЬ** *на каго, на што.*

**НАДЗЕЦЬ НА СЯБЕ АБРОЦЬ.** *Зак. да* **НАДЗЯВАЦЬ НА СЯБЕ АБРОЦЬ.**

**НАДЗЕЦЬ <НА СЯБЕ> МАСКУ.** *Зак. да* **НАДЗЯВАЦЬ <НА СЯБЕ> МАСКУ.**

**НАДЗ`ЕЦЬ (ПРЫМ`ЕРЫЦЬ) Ш`АПКУ МАНАМ`АХА**. *Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Стаць адзіным, поўнаўладным кіраўніком дзяржавы. *Патаемнай жа марай Жыгімонта было самому надзець тую клятую шапку Манамаха.* Петрашкевіч. *Хто ведае, можа, і здзейсніцца ягоная дайняя мара – прымерыць шапку Манамаха.* «ЛіМ».

**НАДЗЕЦЬ <САБЕ> ХАМУТ НА ШЫЮ.** *Зак. да* **НАДЗЯВАЦЬ <САБЕ> ХАМУТ НА ШЫЮ.**

**НАДЗЕЦЬ ХАМУТ** *на каго. Зак. да* **НАДЗЯВАЦЬ ХАМУТ** *на каго.*

**НАДЗЕЦЬ ЯРМО НА ШЫЮ** *каму, каго. Зак. да* **НАДЗЯВАЦЬ <ЯРМО НА ШЫЮ>** *каму, каго.*

*НАДЗЁННЫ* ● **ХЛЕБ НАДЗЁННЫ.** Гл. хлеб.

*НАДЗЬМУЛА* ● **В`ЕТРАМ НАДЗЬМ`УЛА** *каму. У безас. ужыв. Разм. Іран.* Якая-н. жанчына зацяжарала без мужа ці нарадзіла пазашлюбнага дзіця. *А бывае вецер у галаве: і сезонны, і круглы год... І напарнік ягоны, на якога звычайна зварочваюць грахі і непажаданыя вынікі кахання: кажуць, у такіх выпадках, – ветрам надзьмула...* Зуёнак.

*НАДЗЯВАЦЬ* ● **НАДЗЯВ`АЦЬ АБР`ОЦЬ** *на каго, на што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Падпарадкоўваць сваёй волі, стрымліваць, утаймоўваць каго-н. **Сін**.: браць верх (у 1 знач.); браць у <свае> рукі (у 1 знач.); віць вяроўкі *з каго*; выкручваць сырыцу *з каго;* ездзіць вярхом *на кім;* ездзіць на карку *чыім*; запрагаць у аглоблі *каго*; надзяваць хамут *на каго;* надзяваць ярмо на шыю *каму, каго;* падмінаць пад сябе *што, каго*; прыбіраць да рук (у 1 знач.); садзіцца на галаву *каму;* садзіцца на карак *каму, чый, каго (у* 1 знач.); сціскаць у кулак *каго;* убіраць у <свае> рукі (у 1 знач.). *Я асабіста, Аляксандр Адамавіч, ужо бачу, што нам з вамі не хапіла фантазіі, ці, больш правільна сказаць, мы баяліся даць прастор ёй, уласнай фантазіі, мы ўвесь час надзявалі на яе аброць.* Шамякін. **НАДЗЕЦЬ**

**АБРОЦЬ** *на каго, на што. Зак. Прысутнасць маці падмацавала Грэйніма. У яго з’явілася надзея з яе дапамогай надзець на бацьку аброць.* Чарнышэвіч.

**НАДЗЯВ`АЦЬ (АДЗЯВ`АЦЬ) <САБ`Е> ХАМ`УТ НА Ш`ЫЮ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Занадта абцяжарваць сябе чым-н., рабіць сабе лішні клопат, нязручнасці. **НАДЗЕЦЬ (АДЗЕЦЬ) <САБЕ> ХАМУТ НА ШЫЮ.** *Зак. — Хіба зяця к сабе ўзяць? — разважна прагаварыў [Макар]. А Нічыпар даў яму раду: — Вазьмі сабе, калі хочаш на шыю адзець хамут...* Каваль.

**НАДЗЯВ`А́ЦЬ НА СЯБ`Е АБР`ОЦЬ (ХАМ`УТ).** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці зборн. прадмета. Трапляць у залежнае становішча, падпарадкоўваючыся чыёй-н. волі. **Ант**.: скідаць <з шыі> ярмо. **НАДЗЕЦЬ НА СЯБЕ АБРОЦЬ (ХАМУТ).** *Зак. Каб [Ганна] загадзя ўбачыла ўсё — у пельку хутчэй кінулася б, чым дала б аброць такую на сябе надзець!* Мележ. *Атрымаўшы дазвол, спытала [Таня Нізавец]: —То чаму ж такі народ, як вы кажаце, даўся Гітлеру хамут на сябе надзець?* Шамякін.

**НАДЗЯВ`АЦЬ <НА СЯБ`Е> М`АСКУ.** *Незак. Функц. не зам. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Утойваць сваю сапраўдную сутнасць. *Напэўна, на ўсё жыццё далася ў знакі яму [Корзуну] першая практыка, пасля якой ледзь не расчараваўся ў выбранай прафесіі. Таму зараз, успомніўшы тую практыку, загарачыўся і дадаў: — Але і на допыт неабавязкова надзяваць маску.* Шыцік. **НАДЗЕЦЬ <НА СЯБЕ> МАСКУ.** *Зак. — Трэба ўмець валодаць сваімі пачуццямі, мімікай... — Карацей кажучы, надзець на сябе маску...* Дамашэвіч.

**2**. *каго.* Прытварацца, прыкідвацца кім-н. **Сін**.: іграць ролю (у 3 знач.); насіць маску *каго, чыю.* **Ант**.: скідаць маску. *Усе яны.. як бы загадзя надзелі на сябе маскі страшэнных зухаў, якім мора па калена.* Навуменка. **НАДЗЕЦЬ <НА СЯБЕ> МАСКУ.** *Зак. Ён [Гітлер] аб’явіў сябе вегетарыянцам. Надзеў маску пустэльніка, які вядзе аскетычны лад жыцця, прысвяціўшы ўсяго сябе дзяржаўным справам.* Хомчанка. *[Сенатар], адкінуўшыся на спінку крэсла, надзеў маску таго велічнага і магутнага Уолтэра, якога, затаіўшы дыханне, слухалі ў сенаце, перад якім дрыжалі дробныя, сярэднія і буйныя бізнесмены Штатаў.* Гамолка.

**НАДЗЯВ`АЦЬ ХАМ`УТ (ЯРМ`О)** *на каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Занявольваць каго-н., браць у поўнае падпарадкаванне. **Сін**.: браць верх (у 1 знач.); браць у <свае> рукі (у 1 знач.); віць вяроўкі *з каго;* выкручваць сырыцу *з каго;* ездзіць вярхом *на кім;* ездзіць на карку *чыім;* запрагаць у аглоблі *каго*;

надзяваць аброць *на каго, на што;* надзяваць ярмо на шыю *каму, каго;* падмінаць пад сябе *што, каго*; прыбіраць да рук (у 1 знач.); садзіцца на галаву *каму;* садзіцца на карак *каму, чый, каго* (у 1 знач.); сціскаць у кулак *каго;* убіраць у <сває> рукі (у 1 знач.). **НАДЗЕЦЬ ХАМУТ (ЯРМО)** *на каго. Зак. Дык ты хочаш, каб зноў фабрыканты ды купцы хамут на нас надзелі? Не, не дапусцім.* Шамякін. *Мужык цяпер не той, не-е, на яго не надзенеш ярма...* Гурскі.

**НАДЗЯВ`АЦЬ ЯРМ`О (ХАМ`УТ) НА Ш`ЫЮ** *каму, каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці няпэўнай колькасці асоб. Занявольваць, браць у поўнае падпарадкаванне каго-н. **Сін**.: браць верх (у 1 знач.); браць у <сває> рукі (у 1 знач.); віць вяроўкі *з каго;* выкручваць сырыцу *з каго;* ездзіць вярхом *на кім;* ездзіць на карку *чыім*; запрагаць у аглоблі *каго;* надзяваць аброць *на каго, на што;* надзяваць хамут *на каго;* падмінаць пад сябе *што, каго*; прыбіраць да рук (у 1 знач.); садзіцца на галаву *каму;* садзіцца на карак *каму, чый, каго* (у 1 знач.); сціскаць у кулак *каго;* убіраць у <сває> рукі (у 1 знач.). *Усе, здаецца, Пералескі, ад малога да старога, прыйшлі паглядзець на тую багатую маладуху, на тое гучнае вяселле, на свайго брыгадзіра Варавулю, якому на шыю надзяваюць хамут. І хто? Родная маці!* Каліна. **НАДЗЕЦЬ ЯРМО (ХАМУТ) НА ШЫЮ** *каму, каго. Зак. Ім не зламаць твой дух, разбуджаная Афрыка, ім не надзець ярмо ізноў табе на шыю!* Звонак. — *Жылі, працавалі, будаваліся, багацелі з кожным годам... Але калі на нас напалі, калі нам на шыю ярмо ўздумалі надзець, — ён [Прыборны] узрушана падняўся з-за стала, — мы ўсе сталі салдатамі.* Шамякін.

*НАДРЫВАЦЬ* ● **НАДРЫВ`АЦЬ (РВ`АЦЬ) ЖЫВАТ`Ы <АД СМ`ЕХУ>** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі моцна і доўга, да знямогі смяяцца. **Сін**.: бакі рваць; брацца за жываты; качацца са смеху; паехаць ад смеху; пакаціцца са смеху; паміраць ад смеху. *Цяпер госці ўсе былі на зборнай і рвалі жываты ад смеху.* Колас. **НАДАРВАЦЬ (ПАДАРВАЦЬ, ПАРВАЦЬ, ПАПАДРЫВАЦЬ) ЖЫВАТЫ <АД СМЕХУ>.** *Зак. Чуў пра Пата і Паташонка? Жываты надарвеш, як іх пабачыш.* Асіпенка. *[Лявон:] Усё сяло ўпокат ляжа, ад смеху жываты надарвуць.* Макаёнак. *Хто з Хвядосам толькі ехаў, ад нястрыманага смеху пакаціліся далоў. Быццам чэрці казыталі, да паўсмерці рагаталі, аж да слёз, ды хрыпаты, падарвалі жываты.* Крапіва. *І я ж, дзеткі, драўся, са мной Шавалонка, жываты парвалі...* Дунін-Марцінкевіч. *«Гужы сеяць?! Ты толькі сёння пра гэта надумаўся?! А ты не ведаеш, што ўвесь раён даўно пасеяў ужо гужы, а ты толькі збіраешся!..» Гэта старшыня, каб паказаць, які ён*

*спраўны гаспадар... Уся канцылярыя, кажуць, жываты пападрывала з тых гужой.* Лобан.

**НАДРЫВ`АЦЬ С`ІЛЫ** *каго, чые. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Даводзіць да крайняй змардаванасці. *Я — мужык, бядак пахілы, ўсе ўшчуваюць мужыка. Цягнуць крой з яго і жылы, надрываюць яго сілы, ў мазалях яго рука.* Колас. **НАДАРВАЦЬ СІЛЫ** *каго, чые. Зак.*

*НАДТА* • **МЯСЦІНЫ НЕ НАДТА АДДАЛЕНЫЯ.** Гл. мясціны.

**НЕ НАДТА РАЗГОНІШСЯ.** Гл. разгонішся.

*НАДУРЫЦЬ* • **НАДУР`ЫЦЬ ГАЛАВ`У** *каму. Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Заблытаць каго-н., пазбавіць здольнасці разумна развважаць. **Сін**.: задурыць галаву (у 2 знач.). *Скашынскі.. гутарку з Казікам меркаваў даручыць сястры. Ён ведаў, што яна лепш за яго надурыць хлопцу галаву.* Чарнышэвіч.

**2**. Страшэнна надакучыць чым-н. (гаворкай, просьбай і інш.). **Сін**.: адурыць галаву *каму;* азяліць гаву *каму, чыю*; дурыць галаву *каму* (у 2 знач.). *[Галіна Міхайлаўна] глянула на гадзіннік. — Ох, і загаварыліся ж мы! Надурыла я вам галаву...* Марціновіч.

*НАДХМАР'І* • **ЛУНАЦЬ У НАДХМАР'І.** Гл. лунаць.

*НАЕЎСЯ* • **БЛ`ЁКАТУ НА`ЕЎСЯ (-ЛАСЯ, -ЛІСЯ); БЛ`ЁКАТУ АБ'`ЕЎСЯ (-ЛАСЯ, -ЛІСЯ).** *Зак. Цяп. і буд. не ўжыв. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы (звычайна ў пытальных ск.). Зусім здурнеў, перастаў разумець, кеміць. *Ты што — блёкату наеўся? А калі б у мяне тормаз быў няспраўны? Я б на цябе, як на тую жабу зялёную...* І.Капыловіч. *— Стой!.. —Што вы, хлопцы, блёкату наеліся?* Карпаў. *Паўлюк вырачыўся: — Блёкату аб'елася? Ашалела? Чуюць жа ўсе?* Калодзежны.

*НАЖА* • **БЕЗ НАЖА РЭЗАЦЬ** *каго.* Гл. рэзаць.

**НА ВАСТРЫІ НАЖА.** Гл. вастрыі.

*НАЖАХ* • <u>Быць</u> **НА НАЖ`АХ** *з кім. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У рэзка варожых адносінах. **Сін**.: як кот з сабакам. **Ант**.: душа ў душу; звон у звон; на адну нагу (у 1 знач.); у ладу. *Нябось, вы цяпер з Ваўчком на нажах — натуру Сцяпана Захаравіча я ведаю.* Хадкевіч. *Раней, калі яшчэ не былі на нажах з Былічам, як агорне туга, [Радзівон Іванавіч] звычайна ішоў пазабаўляцца з яго пяцігадовымі жэўжыкамі Паўлікам і Дзімкам.* Блакіт. *Сварыліся, каб табе не зманіць, кожны дзень. На нажах былі.* Ермаловіч.

*НАЖОМ* • <u>Прыставаць (прыстаць)</u> **З НАЖ`ОМ ДА Г`ОРЛА.** *Акал. Праст. Неадабр.* Вельмі рашуча і неадступна. **Сін**.: з кароткімі гужкамі; як п'яны да плота; як сляпы да плота; як смала. *Дучэ прысніўся сон. Нібы вайне канец. Нібы супакоіўся гэты небяспечны*

*вар'ят Адольф, які прыстае з нажом да горла штодня, патрабуючы ўсё новых і новых дывізій.* Лынькоў. *Цяжка мне з ім, з Жаўрыдам. Прыстане з нажом да горла — давай яму сто машын торфу, хоць ты тут душою рыгні...* Лобан. *Дзяўчаты, памрыце, а сёння мне ўзносы здайце, а то Дубровіна прыстала з нажом да горла — аддай і годзе!* Карпюк.

**ПАД НАЖ`ОМ** <u>*паміраць (памерці), крычаць.*</u> *Акал. Разм.* У час хірургічнай аперацыі. *[Доктар] баяўся гэтай аперацыі, доўга рыхтаваў хворага, знясіленага, са слабым сэрцам, у якога быў, як кажуць, адзін шанс са ста не памерці пад нажом.* Чарнышэвіч. *Не, Барыс Пятровіч, баюся — памрэ ён [ранены] пад нажом... Не буду... Сам гатоў ехаць з ім да лагера, на ўколах буду трымаць... магчыма, і зберажом.* Мік. Ткачоў. *—Траплялiся людзі, — асцярожна перабіла яго Надзя, — што і не крычаць пад нажом. Сціскаюць зубы і моўчкі глядзяць хірургу ў вочы.* Шахавец.

**РАЗАНУЦЬ <НАЖОМ> ПА СЭРЦЫ** *каго.* Гл. разануць.

**ЯК <НАЖОМ> АДРЭЗАЎ.** Гл. адрэзаў.

**ЯК НАЖ`ОМ ПА С`ЭРЦЫ** *каму. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Што-н. непрыемнае, нясцерпнае, такое, што выклікае душэўны боль. **Сін**.: нож востры *каму, для каго*; <як> нож у сэрца *каму, для каго. «Што гэта цябе прыгнала ў нядзелю па дошкі прыехаць, гэтакага набожнага?» Цітку — як нажом па сэрцы гэтае пытанне.* Лобан. *Дзяцей у Сідара было трое, усе вучыліся, меншы хадзіў у трэці клас. Іх трэба было адзяваць, абуваць, і гэта было Сідару як нажом па сэрцы.* Чарнышэвіч.

*НАЗАД* ● **АГЛЯДАЦЦА НАЗАД.** Гл. аглядацца.

**АСАДЗІ НАЗАД!** Гл. асадзі.

**БРАЦЬ <СВАЕ> СЛОВЫ НАЗАД.** Гл. браць.

**ВЯРНУЦЬ НАЗАД <СВАЕ> СЛОВЫ.** Гл. вярнуць.

**НІ НАЗАД НІ ЎПЕРАД.** Гл. узад.

**ПАВЯРНУЦЬ КОЛА ГІСТОРЫІ НАЗАД.** Гл. павярнуць.

**СХАДЗІЦЬ <НАЗАД> ПА РОЗУМ.** Гл. схадзіць.

*НАЗАЎСЁДЫ* ● **РАЗ <І> НАЗАЎСЁДЫ.** Гл. раз.

*НАЗАЎТРА* ● **ЯК НАЗАЎТРА ТРЭБА.** Гл. трэба.

*НАЗВА* ● **АДН`А <Т`ОЛЬКІ> Н`АЗВА.** *Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Не адпавядае свайму прызначэнню; значна горшы, чым названы. *Ёсць тут у нас пару дзядоў, адна назва, што мужчыны — у шараварах ходзяць.* Дамашэвіч. У *Холмечы — базарны дзень. Хоць, праўду кажучы, які той цяпер базар? Так, адна назва толькі, — не тое, што раней.* Даніленка.

*НАЗВАЦЬ* ● **НАЗВАЦЬ РЭЧЫ СВАІМІ ІМЁНАМІ.** *Зак. да* **НАЗЫВАЦЬ РЭЧЫ СВАІМІ ІМЁНАМІ.**

*НАЗЕ* ● **НА АДН`ОЙ НАЗ`Е** <u>збегаць, схадзіць</u> і пад. *Акал. Праст.* Вельмі хутка, мігам (збегаць куды-н.). **Сін**.: адна нага тут другая там. *Я абяцаў сам прыехаць, але бачыш: справы, людзі. Скачы туды на адной назе. Скажы — няхай пачынаюць.* Шамякін. *Я ад кампаніі ніколі не адмаўляюся. Іду, бягу, на адной назе скачу.* Радкевіч.

<u>Быць, адчуваць сябе</u> **НА КАР`ОТКАЙ НАЗ`Е** *з кім. Вык. і акал. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У блізкіх, сяброўскіх адносінах. **Сін**.: на блізкую нагу; на ты (у 1 знач.). *Голанд з радасцю.. глядзеў на сына: «Удалы хлопец! Здаравяк, смяльчак і не дурань. І з Патржанецкім, відаць, на кароткай назе..»* Чарнышэвіч. *Адразу ён [Шпулькевіч] адчуў сябе на кароткай назе з гэтым хлопцам.* Чорны.

<u>Быць, трымацца, стаяць</u> і пад. **НА Р`ОЎНАЙ НАЗ`Е** *з кім. Акал. Разм.* Як роўны з роўным, не прыніжаючы чыёй-н. годнасці. *[Камандзір] быў таварыскі, просты, на роўнай назе з усімі...* Дамашэвіч. *[Антон] стаяў цяпер на роўнай назе з парабкамі.* Чорны. *Коласу, па яго духоўным складзе, было агідна слугаванне і падлешчванне. Ён трымаўся на роўнай назе, папярэдліва і далікатна.* Лужанін.

*НАЗОЎНІКА* ● **ПРЫВОДЗІЦЬ ДА АГУЛЬНАГА НАЗОЎНІКА.** Гл. прыводзіць.

**ПРЫВЯДЗЕННЕ** *чаго* **ДА АДЗІНАГА НАЗОЎНІКА.** Гл. прывядзенне.

*НАЗЫВАЕЦЦА* ● **ШТ`О НАЗЫВ`АЕЦЦА.** *У знач. пабочн. сл. Разм.* Як прынята гаварыць. **Сін**.: як кажуць; як той казаў. *Бой, што называецца, кіпеў.* Колас. *Людзі былі рупныя і працавітыя, дык вось праз некалькі гадоў яны абрабілі гэтую зямлю добра і зажылі, што называецца, багата.* Бядуля. *Гэтае раніцы Дзераш быў, што называецца, не ў гуморы.* Шынклер.

*НАЗЫВАЦЬ* ● **НАЗЫВ`АЦЬ Р`ЭЧЫ СВА`ІМІ ІМ`ЁНАМІ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць адкрыта, нічога не ўтойваючы пра каго-, што-н. *Варта было б часцей называць рэчы сваімі імёнамі, як гэта рабілі класікі крытычнай думкі.* «ЛіМ». *[Ягор:] А я і не гавару загадкамі. Я называю рэчы сваімі імёнамі, Вадзім Сілавіч.* Лукша. **НАЗВАЦЬ РЭЧЫ СВАІМІ ІМЁНАМІ.** *Зак. [Башлыкоў:] Трэба адкрыта паглядзець, назваць рэчы сваімі імёнамі. Мы гулялі ў лібералізм, міндальнічалі. Праявілі недаравальнае галавацяпства.* Мележ.

*НАЙМЕНШАГА* ● **ІСЦІ ПА ЛІНІІ НАЙМЕНШАГА СУПРАЦІЎЛЕННЯ.** Гл. ісці.

*НАЙШЛА* ● **НАЙШЛА КАСА НА КАМЕНЬ** *<у каго>*. Гл. каса.
*НАКАЗАЦЬ* ● **НАКАЗАЦЬ ДОЎГА ЖЫЦЬ** *<каму>*. Гл. загадаць.
*НАКАЛЯЕЦЦА* ● **АТМАСФЕРА НАКАЛЯЕЦЦА** *<дзе>*. Гл. атмасфера.
*НАКАСЯК* ● **СЯК-ТАК НАКАСЯК <АБЫ НЕ ПА-ЛЮДСКУ>.** Гл. сяк.
*НАКЛАДАЦЬ* ● **НАКЛАД`АЦЬ ГАЛАВ`ОЙ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гінуць, прападаць. **Сін**.: загрымецць касцямі (у 1 знач.); злажыць <свае> косці; знайсці сабе магілу *дзе;* класці галаву *за каго, за што дзе;* легчы касцьмі (у 1 знач.); легчы трупам; ляжаць у <сырой> зямлі; навярнуць галавой; памінай як звалі (у 1 знач.); парыць зямлю; парыць косці *дзе;* парыць у зямлі косці; спаць вечным сном; спаць у сырой зямлі; яму засквaрыць. **НАКЛАСЦІ (НАЛАЖЫЦЬ) ГАЛАВОЙ.** *Зак. — Кніжка дужа цікавая, давай чытаць разам... Лепей, — кажа, — чытаць пра другіх, як яны галавой наклалі, чым накладаць сваёю...* Гарэцкі. *—Налажыў недзе галавою, бедны, на японскай вайне, — казала Разэля.* Калюга. *Спатрэбіцца дапамога, будуць цябе нейкія там фарысеі хапаць — па дапамогу толькі да нас. Галавою наложым, а выручым.* Караткевіч. *Б'е яго [Косціка] матка, кляне і плача: —Каб ты ўжо галавою налажыў, як ты мне тут пакут прыносіш.* Арабей.

**НАКЛАДАЦЬ <СВАЮ> ПЯЧАЦЬ** *на каго, на што.* Гл. класці.

*НАКЛАДВАЦЬ* ● **НАКЛ`АДВАЦЬ Л`АПУ (РУК`У).** *Незак. Разм. Неадабр.* **1**. *на што.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Прысвойваць, захопліваць што-н. **Сін**.: браць у <свае> рукі (у 3 знач.); залазіць у кішэнь *чыю, каму, каго;* запускаць ляшча; запускаць руку *ў што, куды;* класці ў <сваю> кішэнь *што*; прыбіраць да рук (у 2 знач.); убіраць у <свае> рукі (у 2 знач.). **НАКЛАСЦІ (НАЛАЖЫЦЬ( ЛАПУ (РУКУ)** *на што. Зак. Яму [Халусту] арэнда нявыгадна. Яму, калі хочаш ведаць, трэба Грома аддзяліць, от ён і хоча накласці сваю лапу на Герасімаву пайвалоку.* Чарнышэвіч. *Каб не трапіць у дурні, не адбіць ад сябе веруючых, каб налажыць лапу на Альяшова багацце, духавенства, нарэшце, мусіла здацца.* Карпюк. *[Заруба] вінакурам быў і гнаў гарэлку там на астравах. Гнаў пры цары і пры панах, пакуль Лукаш сваёй уладзе не памог на гэты бровар налажыць руку.* Танк.

**2**. *на каго, на што.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Падпарадкоўваць сваёй уладзе, распраўляцца з кім-, чым-н. **НАКЛАСЦІ (НАЛАЖЫЦЬ) ЛАПУ (РУКУ)** *на каго, на што. Зак. Польскі фашызм.. пастанавіў, як гэта сведчаць апошнія факты, бесцырымонна і канчаткова накласці лапу на ТБШ [Таварыства беларускай школы].* Таўлай.

**НАКЛ`АДВАЦЬ НА СЯБ`Е Р`УКІ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн.

са знач. асобы. Канчаць жыццё самагубствам. **Сін**.: пускаць сабе кулю ў лоб. **НАКЛАСЦІ (НАЛАЖЫЦЬ) НА СЯБЕ РУКІ.** *Зак. Імполь нават пабойваўся цяпер, што з гарачкі, пад якую пунтовую злосць, яна знявечыць яго або накладзе на сябе рукі.* Адамчык. *Кінуў [Пракоп] дом і пайшоў, куды? Невядома. Вернецца ён ці не, ці наложыць на сябе рукі, — нічога невядома...* Колас. *А больш за ўсё хвалявала згадка: татачка, мамка — як ім будзе, калі дазнаюцца, што дачка рукі на сябе налажыла!* Мележ.

**НАКЛ`АДВАЦЬ Р`УКІ** *на каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пазбаўляць жыцця, забіваць, знішчаць каго-н. **Сін**.: грызці горла *каму;* зрабіць блін *з каго;* мяшаць з зямлёй (у 2 знач.); сціраць з твару зямлі (у 1 знач.); сцерці ў парашок *каго. — Пакута такая, хоць рукі на сябе накладзі. — А цяпер ты глупства гаворыш, — строга сказаў Мікола. — Не на сябе, а на ворагаў будзем рукі накладваць.* Новікаў. **НАКЛАСЦІ (НАЛАЖЫЦЬ) РУКІ** *на каго. Зак.*

**НАКЛАДВАЦЬ <СВАЮ> ПЯЧАЦЬ** *на каго, на што.* Гл. класці.

*НАКЛАДЗЕ* ● *Быць, заставацца* **У НАКЛ`АДЗЕ**. *Акал. Разм.* З пройгрышам, у нявыгадным становішчы. Звычайна пра грашовыя выдаткі. *«Я атрымліваю ўсе пяць мільёнаў, — думаў ён. — З іх, праўда, прыйдзецца выдзеліць сёе-тое Максу, Робу і, вядома, у касу Легіёна. Аднак я не буду ў накладзе».* Гамолка. *Святар застанецца не ў накладзе, таксама ж чалавек... Адпачне, падыхае марскім паветрам. Выдаткі ўсе праплачаны.* Праўдзін.

*НАКЛАСЦІ* ● **НАКЛАСЦІ ГАЛАВОЙ.** *Зак. да* **НАКЛАДАЦЬ ГАЛАВОЙ.**

**НАКЛАСЦІ ЛАПУ.** *Зак. да* **НАКЛАДВАЦЬ ЛАПУ.**

**НАКЛАСЦІ НА СЯБЕ РУКІ.** *Зак. да* **НАКЛАДВАЦЬ НА СЯБЕ РУКІ.**

**НАКЛАСЦІ РУКІ** *на каго. Зак. да* **НАКЛАДВАЦЬ РУКІ** *на каго.*

**НАКЛАСЦІ <СВАЮ> ПЯЧАЦЬ** *на каго, на што. зак. да* **КЛАСЦІ <СВАЮ> ПЯЧАЦЬ** *на каго, на што.*

*НАКЛЕЙКАЙ* ● **ЗЛАДЗЕЙКА З НАКЛЕЙКАЙ.** Гл. зладзейка.

*НАКОЛЬКІ* ● **НАКОЛЬКІ ХАПАЕ ВОКА.** Гл. вока.

*НАКРУЦІЦЬ* ● **НАКРУЦ`ІЦЬ ХВ`ОСТ** *каму. Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зрабіць строгую вымову, паўшчуваць. **Сін**.: браць пад абстрэл *каго, што;* браць у абарот *каго* (у 2 знач.); браць у пераплёт *каго* (у 2 знач.); браць у работу *каго* (у 2 знач.); браць у шоры *каго* (у 2 знач.); выганяць матыліцу *з каго;* выціскаць пот *з каго* (у 2 знач.); даваць гарту *каму* (у 1 знач.); даваць гонку *каму;* даваць дыхту *каму* (у 1 знач.); даваць жару *каму* (у 1 знач.); даваць перцу *каму* (у 1 знач.); даваць піць *каму;* даваць прыкурыць *каму* (у 1 знач.); даваць пытлю *каму* (у 1 знач.); даваць у косці *каму* (у 1 знач.);

даваць чапаласу *каму* (у 1 знач.); даваць чосу *каму* (у 1 знач.); задаваць пары *каму;* здымаць стружку *з каго;* мыліць галаву *каму;* мыліць шыю *каму* (у 2 знач.); паддаваць жару *каму* (у 1 знач.); прадзіраць з пясочкам *каго;* спусціць скуру *з каго* (у 2 знач.); усыпаць перцу *каму. Проньку ў раёне добра накруцілі хвост, і ён прыходзіў прасіць прабачэння.* Каваленка. *Скажаш, парушаем парадак? Бывае... Але я накручу хвост галоўнаму бухгалтару, можаш не сумнявацца.* Шыцік. *Кінь дурыць. Больш ён цябе не зачэпіць: я накручу яму хвост.* Клебановіч.

*НАКРУЧВАЦЬ* • **НАКРУЧВАЦЬ БЫКАМ ХВАСТЫ.** Гл круціць.

*НАКРЫЦЦА* • **ХВАСТ`ОМ НАКР`ЫЦЦА.** *Зак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Адмовіцца ад таго, што абяцаў; не выканаць абяцанага. **Ант**.: трымаць <сваё> слова. — *Што ж, панебраце?.. Прыйшоў, даў мне напамінак, а сам хвастом накрыўся... — Якім хвастом?.. — Як гэта якім? Не ведаеш, якім хвастом накрываюцца, калі кажуць адно, а робяць другое?* Чорны. *Раней ён заўсёды плаціў, хоць і мала, а плаціў за мой подпіс. А тут наабяцаў чорт ведае што, а потым і хвастом накрыўся, са службы выгнаў...* Машара. *Я трактарыст і работу сабе знайду. Калі з трактарнага брыгадзіра знімалі ды старшынёю ставілі, то ого як абяцалі памагаць. А як прыйшло, то хвастом накрыліся.* Лобан.

**2**. Знікнуць, звычайна ўчыніўшы што-н. **Сін.:** давай бог ногі; памінай як звалі (у 2 знач.). *Хадзіў, абяцаў, начаваў... Потым свіснуў брыльянтавае калье ў залатой аправе і хвастом накрыўся...* Місько. *А нашы таксама добрыя. Жылі, пакуль можна было, а як небяспека нахапілася, дык і хвастом накрыліся.* Карпаў. *Але гэта ж не жарты – дзесяць адных яечняў спляжыў і хвастом накрыўся. Няма ніякае ні веры, ні меры.* Лынькоў.

*НАЛАВІЦЬ* • **НАЛАВ`ІЦЬ РЫБЫ.** *Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Абмачыцца, спусціць пад сябе мачу. *[Паўлінка пра Вінцуся, які ўжо выпіў пятую шклянку гарбаты:] Наловіць рыбы, каб я так жыла.* Купала. *Ну, цябе, начальнік, я пачастую… Ды яшчэ нашаму Скубэнту трэба будзе завязку даць з’есці. Ён яшчэ малы, каб рыбы не налавіў. Гэта памагае.* Крапіва. *Толькі і гора, што на двор калі-небудзь не пусцяць; толькі і ганьбы, што раптам рыбы ў ложку наловіш…* Брыль.

*НАЛАЖЫ* • **Х`ОЦЬ <Т`Ы> ГАЛАВ`ОЙ НАЛАЖ`Ы.** *Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм.* Выказванне безнадзейнасці, немагчымасці зрабіць што-н., каб выйсці з крайне цяжкага становішча. **Сін.**: хоць галавой аб сцяну біся; хоць галавой у пятлю; хоць душой загавей; хоць лажыся і памірай; хоць <ты> вешайся; хоць

<ты> жывы ў зямлю лезь; хоць <ты> у вір галавой; хоць у пятлю лезь; хоць у труну лажыся. *Пайшло няшчасце за няшчасцем; я кут пакінуць мусіў свой... Дзе ступіш – смешкі ды напасці, хоць налажы ты галавой.* Купала. *Бывае, што ў камандзіроўцы першаю сустракае якая-небудзь драбяза накшталт незаказанага гатэля ці праколатага кола ў машыне, – і тады ідзе наперакасяк, хоць ты галавой налажы.* Кажадуб. *Да свята, хоць галавой налажы, трэба выплаціць хаця б частку невялікага заробку працаўнікам...* «Звязда».

*НАЛАЖЫЦЬ* ● **НАЛАЖЫЦЬ ГАЛАВОЙ.** *Зак. да* **НАКЛАДВАЦЬ ГАЛАВОЙ.**

**НАЛАЖЫЦЬ ЛАПУ.** *Зак. да* **НАКЛАДВАЦЬ ЛАПУ.**

**НАЛАЖЫЦЬ НА СЯБЕ РУКІ.** *Зак. да* **НАКЛАДВАЦЬ НА СЯБЕ РУКІ.**

**НАЛАЖЫЦЬ РУКІ** *на каго. Зак. да* **НАКЛАДВАЦЬ РУКІ** *на каго.*

**НАЛАЖЫЦЬ <СВАЮ> ПЯЧАЦЬ** *на каго, на што. Зак. да* **КЛАСЦІ <СВАЮ> ПЯЧАЦЬ** *на каго, на што.*

*НАЛАМАЦЬ* ● **НАЛАМ`АЦЬ ДР`ОЎ.** *Зак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нарабіць памылак пры выкананні чаго-н. *Гэты малакасос зноў наломіць дроў, яму мала ўчарашняга...* Лынькоў. *Я мог пагарачыцца, мог наламаць дроў, але ніколі не пераступаў чалавечых законаў*. Шамякін. *Не гарачыся, ты ж мо не Канькоў. Той спачатку наломіць дроў, а потым думае.* Місько.

*НАЛЕВА* ● **НАПРАВА І НАЛЕВА.** Гл. направа.

*НАЛЕЖНАЕ* ● **АДДАВАЦЬ НАЛЕЖНАЕ** *каму, чаму.* Гл. аддаваць.

*НАЛЕЖЫЦЬ* ● **ЯК НАЛЁЖЫЦЬ.** *Акал. Разм.* Так, як і трэба; належным чынам (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін**.: на поўную катушку (у 1 знач.); па ўсіх правілах; чын па чыну; чын чынаром; чын чынам; чэсць па чэсці; як мае быць (у 1 знач.); як след. *[Музыка:] Ужо як належыць сабраліся, цяпер можам і рэзнуць што-колечы для паненкі.* Купала. *Хустачка была малая і не закрывала як належыць тое, што было ў ёй.* Чорны. *[Дубавец:] Табе трэба спакойна абдумаць усё як належыць.* Крапіва.

*НАЛЁТУ* ● **З НАЛ`ЁТУ.** *Акал. Разм.* **1**. Наляцеўшы, набегшы (зрабіць што-н.). *Страляніна то нарастае, то раптоўна ападае, але ўжо зразумела, што здарылася самае кепскае: мы іх [фатыстаў] не прыбілі з налёту, цяпер усё залежыць ад боепрыпасаў і часу — у каго болей.* Адамовіч.

**2**. Адразу, лёгка, без цяжкасцей (пераадольваць, разумець, разбірацца і пад.). **Сін**.: з наскоку (у 1 знач.). *Тут жа не пасцілка, а сучасны прыбор! Наўрад ці можна разабрацца ў ім вось так, адразу,*

*ці, як кажуць, з налёту...* Макарэвіч. *Амаль усё, за што ні браўся хлопец, давалася яму лёгка, проста з налёту.* Кулакоўскі.

**3**. Зусім не задумваючыся, не разважаючы (рабіць што-н.). **Сін.**: заплюшчыўшы вочы, з бухты-барахты; з завязанымі вачамі; з кандачка; з наскоку (у 2 знач.); на зламанне карка (у 1 знач.); на злом галавы (у 1 знач.); на скрут галавы (у 1 знач.); проста з моста. **Ант.**: з адкрытымі вачамі. *Як гэта так, каб не хадзіўшы, не любіўшы, з налёту жаніцца?!* Кузьмянкоў. *Ёсць, мусіць, і другія прычыны, але яны ляжаць недзе глыбей, і так з налёту да іх на дакапаешся. Тут трэба падумаць...* Палтаран.

*НАЛІВАЦЦА* ● **НАЛІВ`АЦЦА КР`ОЎЮ (КРЫВ`ЁЮ).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці канкр. прадмета (вочы, твар, карак і пад.). Чырванець ад прыліву крыві. *У абодвух [Мірона і Лазара] вочы наліваюцца крывёю, у абодвух ад моцнай злосці і напружанасці трасуцца рукі.* Галавач. **НАЛІЦЦА КРОЎЮ (КРЫВЁЮ).** *Зак. Тут Андрэй увесь наліўся крывёю і з размаху ўдарыў Івана па твары.* Шахавец. — *Каму кажу — злазь! — ужо зароў Вавіла, шчэрачы зубы. Карак яго чырванеў, наліўся кроўю.* Кудравец. *Твар Яўхіма крывёю наліўся, на лбе, шыі выступілі жылы нібы пляцёнкі кошыка.* Бядуля.

*НАЛІЦЦА* ● **НАЛІЦЦА КРОЎЮ.** *Зак. да* **НАЛІВАЦЦА КРОЎЮ.**

*НАЛІЦЬ* ● **НАЛ`ІЦЬ Г`ОРЛА**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Многа выпіць гарэлкі, віна і пад. **Сін.**: бачыць шклянога бога; браць у губу; вадзіць казу; глядзець у бутэльку; закідваць за гальштук; закідваць за каўнер; закладваць за каўнер; заліваць вочы <*чым*> (у 1 знач.); заліваць за каўнер; залі ваць чарвяка; мокнуць у гарэлцы; наступаць на корак; не прасыхаць; панюхаць корак; прамачыць горла. **Ант.**: не браць у рот *што, чаго* (у 2 знач.). *Развітвалі Гандзю не галосячы і не прычытаючы, у якімсьці задуменні... А на памінках – не наліў горла нават Літровы Антак.* Яновіч. *– Дай бог, – мармытаў бацька. За паслярэвалюцыйную галадуху першы раз наліў горла, ажно блага яму зрабілася.* «Ніва».

*НАМАЗАНА* ● **М`ЁДАМ НАМ`АЗАНА** <*дзе*>. *Часцей у безас. ужыв. Разм.* Вялікая раскоша, куды вельмі цягне, прыцягвае. —*У Навасёлкі пераязджаю... — Ты што — насур'ёз? Што там — мёдам намазана ці трактары лепшыя?* Місько. —*Хоча, хай сабе едзе. Хоць да Марысі, хоць сама як. —Як гэта сама? Дзіця ж... Думаеш, тая Вільня мёдам намазана?* Коўтун.

*НАМАЗОЛІЦЬ* ● **НАМАЗ`ОЛІЦЬ В`ОЧЫ** *каму. Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Празмерна надакучыць сваёй пастаяннай прысутнасцю, наяўнасцю. *Мне Богут вочы намазоліў, і я*

*адзначыць дужа рад, што тут няма яго і болей сюды не прыйдзе ён назад.* Колас. *Кожны шукаў таго, чаго хацеў. Намазоліў толькі ўсім вочы нейкі яшчэ не стары барадач з маладою, але, няйначай, бывалаю кабетай.* Дамашэвіч.

**НАМАЗ`ОЛІЦЬ ЯЗ`ЫК.** *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Працяглы час прагаварыць упустую. *[Паўлінка:] Пагавораць, пагавораць ды перастануць, як намазоляць языкі.* Купала.

*НАМАТАЦЬ* ● **НАМАТАЦЬ <САБЕ> НА ВУС** *што. Зак. да* **МАТАЦЬ <САБЕ> НА ВУС** *што.*

*НАМАЦАЦЬ* ● **НАМАЦАЦЬ ГЛЕБУ.** *Зак. да* **НАМАЦВАЦЬ ГЛЕБУ.**

*НАМАЦВАЦЬ* ● **НАМ`АЦВАЦЬ ГЛ`ЕБУ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Загадзя разведваць што-н., вызначаць шанцы на поспех. **Сін**.: закідаць вуды; зандзіраваць глебу; пускаць пробны шар. — *Скажыце, Уладзімір Мікалаевіч, як вы сталі будаўніком? — намацваючы глебу для гаворкі, пытаюся я.* Мыслівец. **НАМАЦАЦЬ ГЛЕБУ**. *Зак. Мне сказалі, што там ёсць жонка Іллі і дзве дачкі, якія добра спяваюць. Але як адразу сказаць пра гэта? Трэба яшчэ намацаць глебу.* Мрый.

*НАМІ* ● **МІЖ (ПАМ`ІЖ) Н`АМІ <К`АЖУЧЫ>.** *У знач. пабочн. сл. Разм.* Пад сакрэтам. Пра што-н. такое, чаго не варта гаварыць іншым. *Там — між намі, зразумела, кажучы — з такімі справамі рабілася проста і акуратна.* Брыль. *Учора, між намі кажучы, быў я ля паліўнага склада... Цікавіўся... Дарага, скажу табе, цяпер гэтыя паленцы каштуюць.* М.Капыловіч. *Усё Юрку не ўдавалася, а найгорш не ўдавалася яму, паміж намі кажучы, жонка — Тадора.* Ядвігін Ш. *Арэшкін, паміж намі, дрэнь, але настаўнік ёсць настаўнік, нічога не зробіш, брат.* Шамякін.

<u>*Застанецца, будзе*</u> **ПАМ`ІЖ Н`АМІ.** *Акал. і вык. Разм.* Строга сакрэтна. *[Язва:] Чорт з табой, я не напішу, што ты чытаў ёй чужыя вершы, гэта застанецца паміж намі.* Крапіва. *Няхай тое, што вы сказалі, назаўсёды застанецца тут, паміж намі.* Грахоўскі. *Усё застанецца паміж намі. Але з адной умовай: штодзень вы будзеце прыходзіць сюды і дапамагаць мне.* Хадкевіч. *Вы прабачце, Дзіна Сяргееўна, што пачала пра гэта. І няхай яно будзе паміж намі...* А.Марціновіч.

*НАМОТВАЦЬ* ● **НАМОТВАЦЬ <САБЕ> НА ВУС** *што.* Гл. матаць.

*НАМЫЛІЦЬ* ● **НАМЫЛІЦЬ ШЫЮ** *каму. Зак. да* **МЫЛІЦЬ ШЫЮ** *каму.*

*НАМЫЛЬВАЦЬ* ● **НАМЫЛЬВАЦЬ ШЫЮ** *каму.* Гл. мыліць.

*НАМЯЦЬ* ● **НАМ`ЯЦЬ БАК`І** *каму. Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пабіць каго-н. **Сін**.: даваць гарту *каму* (у 2 знач.); даваць

дыхту (у 2 знач.); даваць жару *каму* (у 2 знач.); даваць копаці *каму*; даваць перцу *каму* (у 2 знач.); даваць прыкурыць *каму* (у 2 знач.); даваць пытлю *каму* (у 2 знач.); даваць у косці *каму* (у 2 знач.); даваць у скуру *каму*; даваць чапаласу *каму* (у 2 знач.); даваць чосу *каму* (у 2 знач.); даць па зубах *каму*; даць па карку *каму*; задаць фефару *каму;* мыліць шыю *каму* (у 1 знач.); па сцяне размазваць *каго*; прапісаць іжыцу *каму*; спусціць скуру з *каго* (у 1 знач.); усыпаць гарачых *каму*; чорта ганяць. *Калі ўсё вакол завалакло туманам, яны [Дземідзецкі і кампанія] счапіліся з цэлым гуртам падобных да іх вісусаў. Ну і намялі бакі сваім праціўнікам!* Новікаў. *Аднойчы [хлопцы] нават хацелі Саньку бакі намяць, дык ён давёў іх сваім маўчаннем, хоць і быў да сценкі прыпёрты.* Кацюшэнка.

*НАНАВА* ● **ЯК <НАНАВА> НА СВЕТ НАРАДЗІЎСЯ.** Гл. нарадзіўся.

*НАНЕСЛА* ● **НЯЛЁГКАЯ НАНЕСЛА** *каго.* Гл. нялёгкая.

*НАНЯТЫ* ● <u>*Брахаць, хлусіць*</u> і пад. **ЯК НАН`ЯТЫ (-АЯ, -АЕ, -ЫЯ)**. *Акал. Разм. Асудж.* Знарок і бессаромна. — *Прапусцілі?..* — *Прапусцілі.* — *Брэшаш ты як наняты.* Караткевіч. — *Мікульчык адборнымі кавалкамі носіць.* — *Хлусіш ты як наняты. Разам з Мікульчыкам бралі.* Лобан.

*НАПАКАЗ* ● **ВЫСТАЎЛЯЦЬ НАПАКАЗ** *што.* Гл. выстаўляць.

*НАПАСЦІ* ● **НАП`АСЦІ НА СЛ`ЕД** *каго, чаго, чый. Функц. не зам. Зак.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Атрымаць звесткі, якія дапамагаюць выявіць, знайсці каго-, што-н.; даведацца пра месца, дзе знаходзіцца хто-, што-н. *Каб хто чуў Рыгораў выказ, падумаў бы, што Рыгор напаў на след чалавека, якога шукаў гадамі.* Гартны. *Мы напалі на след партызанскага атрада Гарашчэні.* Гурскі. *Сашка пацешыў Вэньку яшчэ большай навіною: — Рыльскі напаў на твой след!* Чорны. *Калі мы на іхні след напалі — расталі ў натоўпе бунтары...* Танк.

*НАПАЎ* ● **НЕ НА ТАГ`О (НЕ НА Т`УЮ) НАП`АЎ.** *Вык. Разм.* Ужыв. пры адсутным дзейн. са знач. асобы. Маеш справу не з тым, на каго разлічваў; недаацэньваеш таго, з кім маеш справу. **Сін**.: не на таго нарваўся. *[Мікола:] Яны хацелі б, можа, каб я ім яшчэ ўсю мужыцкую работу рабіў? Не, дудкі-с! Не на таго напалі!* ГарэцкІ. *[Жлукта:] Бачыла, як ён пад'ехаў. Але не на таго напаў.* Крапіва. — *Сышчаш, сышчаш!* — *І сышчу. Не на тую напаў, што сваё папусціць,* — *злосна бразнула Вера дзвярыма.* Пальчэўскі.

*НАПЕРАД* ● **ГЛЯДЗЕЦЬ <ДАЛЁКА> НАПЕРАД.** Гл. глядзець.

**ЗАБЯГАЦЬ НАПЕРАД.** Гл. забягаць.

**ЗАКІДВАЦЬ НАПЕРАД.** Гл. закідваць.

**КРОК НАПЕРАД** *<які>*. Гл. крок.

*НАПЕРАДЗЕ* ● **ІСЦІ НАПЕРАДЗЕ ПРАГРЭСУ.** Гл. ісці.

**ПАЙСЦІ НАПЕРАДЗЕ ПРАГРЭСУ.** Гл. пайсці.

**СТАВІЦЬ ВОЗ НАПЕРАДЗЕ КАНЯ.** Гл. ставіць.

*НАПІСАНА* ● **НА ЛБ`Е (Л`ОБЕ) НЕ НАП`ІСАНА** ў каго. *У безас. ужыв. Разм.* Адразу, па знешнім выглядзе не разбярэш, хто гэта, што гэта за чалавек. *—Ты ўжо даруй, дачушка, — пакаялася Хрысціна. —Каб жа я ведала, хто ён такі, гэты Мікалай Мікалаевіч. На лбе ў яго не напісана.* Асіпенка. *А адкуль было ведаць, ці той паранены быў заадно з партызанамі, ці, наадварот, сам памагаў немцам з імі ваяваць? У яго ж на лобе пра гэта нічога не напісана...* Лецка. *—Дык у чалавека ж на лобе не напісана, які ён ёсць на самай справе, — слаба запярэчыў інспектар па кадрах.* Лазуркін. **НА ЛБЕ (ЛОБЕ) НАПІСАНА** *ў каго.* З процілеглым знач. Ужыв. часцей у пытальных ск. *—Прывёў, ну і што? — дзёрзка зірнуў на яго Галубоўскі. —На лобе ў яго напісана, што будзе здраднікам? Я столькі ведаў яго, як і вас.* Місько. *А ў цябе на лбе напісана, што ты не рыбнагляд? Хаця б грамадскі.* Ласкоў.

**НАП`ІСАНА НА ТВ`АРЫ (-АХ)** *каго, у каго, чыім. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Па выразу твару відаць што-н. *Годзе драпежніцтва! Гэта выразна напісана на тварах тысяч прахожых, занятых працаю.* Гартны. *Некаторыя выказалі сваю думку словамі, у іншых яна была напісана на тварах, чакалі ў сваю чаргу, што скажа сам Ганскі.* Крапіва. *Мусіць, на Чубаравым твары не толькі была напісана пагроза, але і рашучасць прывесці яе ў выкананне.* Чыгрынаў.

**НА РАД`У НАП`ІСАНА** *каму. У безас. ужыв. Разм. Часцей ужыв. у спалучэнні з інф.* Вызначана наперад, наканавана. *Дзіўна абыходзіцца з Васілём жыццё. Ці так ужо на раду яму напісана: адно ладзіцца, адно цешыць, дык другое — бы на зло гэтай радасці.* Мележ. *Ёсць пісьменнікі, каму «на раду напісана» быць дзіцячымі.* Васілевіч. *Зваў яго ў лес, не пайтоў, казаў: «Ад таго, што напісана на раду, нікуды не ўцячэш». Дык цяпер, небарака, парыць у зямлі косці.* Гурскі. *За што ні браўся Мірон, усё выходзіла ў яго не так, як у людзей. Відаць, яму ўжо на раду было напісана быць на канцы людскіх языкоў.* Кудравец.

*НАПІСЯ* ● **Х`ОЦЬ ВАД`Ы НАП`ІСЯ.** *Толькі ў гэтай форме. Вык. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі прыгожы. **Сін**.: кроў з малаком (у 2 знач.); як макаў цвет. *Бабка тры разы яго [Яначку] перахрысціла і доўга паглядала яму ў твар. —Маладзенькі... хоць ты вады напіся, — прамовіла.* Пестрак. *—Ну й хутаранкі, халера, хоць вады напіся. —Хараство, кажуць, прыглядзіцца, а розум прыгадзіцца,*

*— крыва, неяк адным бокам рота ўсміхнуўся Аўсянік.* Адамчык. *Лёгкая і спрытная, а з твару — хоць вады напіся, ужо мама двух сынкоў, яна, сястра, заходзіць у палату, дзе ляжаць пасля аперацыі хворыя, і, звяртаючыся да першага, гаворыць: —Прынесла ўкольчык.* Янкоўскі.

*НАПІЦЦА* • **НАП`ІЦЦА КРЫВ`І** *чыёй. Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Памучыць каго-н., паздзекавацца з каго-н. **Сін**.: вымаць душу *з каго*; высмоктваць сок *з каго, з чаго* (у 2 знач.); вытрасці душу *з каго, каму* (у 1 знач.); даставаць гізунты *з каго*; дыхаць не даваць *каму* (у 2 знач.); есці поедам *каго*; піць кроў *з каго, чыю. —Чэкай, хаме! — крычыць паліцыянт і сам ужо бяжыць сюды па гразі. А цётка не ўцякае... —Ідзі, ідзі! — гаворыць цётка. —Ідзі, напіся, крук, і маёй крыві! Бог мілы дасць — захлынешся!..* Брыль. *—Эх, і некаму ж ён [старшыня] перашкаджаў... —Ну, хтосьці напіўся крыві... — уздыхнуў Валодзя. — Ды не ўтоіцца. Усё роўна знойдуць.* Дайліда.

*НАПЛАКАЎ* • **НЕ КОТ НАПЛАКАЎ.** Гл. кот.

**КОТ НАПЛАКАЎ** *каго, чаго.* Гл. кот.

*НАПЛЕСЦІ* • **НАПЛ`ЕСЦІ КАШАЛ`ЁЎ** *каму, пра каго. Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нагаварыць абы-чаго, нахлусіць, напляткарыць. *Нейкі чорт прыезджаму таварышу наплёў кашалёў пра мяне, а ён і веры даў.* Калюга. *Цяпер стануць абы-што вярзці. Наплятуць кашалёў, не ведаючы.* Карамазаў. *Адкуль ты, такі кавалер, узяўся? Думаеш, з горада прыехаў, кашалёў мне наплёў, то табе і паверылі?* Кажадуб.

*НАПЛЯВАЦЬ* • **НАПЛЯВАЦЬ У ДУШУ** *каму. Зак. да* **ПЛЯВАЦЬ У ДУШУ** *каму.*

*НАПРАВА* • **НАПР`АВА І НАЛ`ЕВА (НАЛ`ЕВА І НАПР`АВА).** *Акал. Разм.*

**1**. Без разбору, абсалютна ўсім (раздаваць, дапамагаць, прадаваць і пад.). *Пасочак, не папытаўшы ў калгаснікаў, прадаваў хлеб направа і налева... Лішкі, кажа...* Сабаленка. *Оля, бы каралева, раздавала налева і направа ўсмешкі...* Карпюк. *Сёння ён [Шчыгол] ну проста расперазаўся — сыпле досціпы налева і направа, адкуль што і бярэцца ў яго.* Масарэнка.

**2**. Безразважліва, неэканомна, неашчадна (траціць грошы). *У яго няма такіх лішніх грошай, якімі б можна было кідацца направа і налева.* Лынькоў. *Канстанцін Міхайлавіч, вядома, не раскідаў грошы направа і налева, але не быў і скупечаю.* С.Александровіч.

*НАПРАМІЛЫ* • **НАПРАМІЛЫ БОГ.** Гл. бог.

*НАПУСКАЦЬ* • **НАПУСК`АЦЬ ТУМ`АНУ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Уносіць няяснасць, няпэўнасць у якую-н.

справу, заблытваць каго-н. **Сін**.: каламуціць ваду (у 2 знач.); наводзіць цень на пляцень; наводзіць цень на светлы дзень. — *Маці я нічога не сказала... Калі яна напускае туману на маё з'яўленне на свет, то, нарэшце, мне таксама ўсё роўна, хто мой бацька, — заключыла яна са злосцю.* Шамякін. *—Не напускай, Лёнік, туману, — запярэчыў Ігар. — Ужо і пісьма напісаць у яго няма часу. А да мядзічак бегаць кожны вечар хапае?* Кудравец. **НАПУСЦІЦЬ ТУМАНУ**. *Зак. — Вось, скажэце, мае мілыя: як бы хто туману напусціў, — прамовіла Аўгеня, збітая з тропу. —Адны святкуюць, другія кажуць, што свята няма.* Колас.

*НАПУСЦІЦЬ* • **НАПУСЦІЦЬ ТУМАНУ.** *Зак. да* **НАПУСКАЦЬ ТУМАНУ.**

*НАРАДЗІЛА* • **У ЧЫМ МАЦІ НАРАДЗІЛА.** Гл. маці.

*НАРАДЗІЎСЯ* • **ЯК (ЯК БЫ, Н`ІБЫ) <Н`АНАВА, ЗН`ОЎ, ДРУГ`І Р`АЗ> НА СВ`ЕТ НАРАДЗ`ІЎСЯ (-ЛАСЯ, -ЛІСЯ).** *Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адчуў вялікую палёгку, пазбавіўшыся ад якіх-н. непрыемнасцей, перажыванняў і пад. *[Дзед] рад, што вось ізноў, як людзі, бачыць. Бо толькі нядаўна яму знялі катаракту. — Як на свет нарадзіўся, сынок! — расказвае ён мне, неяк на дзіва молада смеючыся.* Брыль. *Вось дзе, брат, хараство! Прастор! А якое здаровае паветра! Ну, проста як бы на свет нарадзіўся.* Колас. *—Усялілася ўжо? —Усялілася, Цімафей Ягоравіч. — Ну і як? —Ой, не кажыце! Нібы нанава на свет нарадзілася.* Крапіва. *Вось і хаджу, дзіўлюся на ўсё з ранку да вечара! Любата! Як бы зноў на свет нарадзіўся...* Ракітны. *Яму чатыры дні як зрабілі аперацыю. Стары стаў добра бачыць. «Нібы другі раз нарадзіўся на свет», — радаваўся ён.* А.Марціновіч.

*НАРАДЗІЦЦА* • **НАРАДЗ`ІЦЦА (РАДЗ`ІЦЦА) ПАД ШЧАСЛ`ІВАЙ З`ОРКАЙ.** *Звычайна ўжыв. у форме пр. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць шчаслівым, удачлівым, мець поспех у сваіх справах. **Сін**.: нарадзіцца ў сарочцы. **Ант**.: нарадзіцца ў дзіравым карабе. *Мусіць, пад шчаслівай зоркай, як кажуць, нарадзіўся Юткевіч.* Мікуліч. *Аднойчы [цыганка] паглядзела маю далонь і кажа: «Ты, дзяўчынка, пад шчаслівай зоркай нарадзілася. У цябе будзе муж-прыгажун і трое дзетак...»* Асіпенка. *[Клебер] адчуваў, што тут будзе яму спакайней, і ўжо як мае быць лічыў, што радзіўся пад шчаслівай зоркай.* Чорны.

**НАРАДЗ`ІЦЦА (РАДЗ`ІЦЦА) У САР`ОЧЦЫ (У КАШ`УЛІ).** *Звычайна ўжыв. ў форме пр. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць шчаслівым, удачлівым, вязучым, быць шчасліўчыкам. **Сін**.: нарадзіцца пад шчаслівай зоркай. **Ант**.: нарадзіцца ў дзіравым карабе. *Звычайна пра такіх, як Іван Макаравіч, гавораць, што яны нарадзіліся ў сарочцы.* Гігевіч. *Дзяўчаты, мае сяброўкі па курсе,*

*крычалі ад захаплення, а можа, ад зайздрасці: «Ліна, ты радзілася ў сарочцы. Такі хлопец! Золата! З такой сям'і. Само шчасце ідзе да цябе. А ты яшчэ думаеш! «Дурная!»* Шамякін. *—Ну і пашанцавала табе, хлопча, — весела сказаў Мятла. —Відаць, у кашулі нарадзіўся.* Машара.

**НАРАДЗ\`ІЦЦА Ў ДЗІР\`АВЫМ К\`ОРАБЕ.** *Звычайна ўжыв. у форме пр. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць нешчаслівым, няўдачлівым, не мець поспеху ў сваіх справах. **Ант**.: нарадзіцца пад шчаслівай зоркай; нарадзіцца ў сарочцы. *Добра, свае хлопцы падтрымалі, адвялі бяду. Ці ж гэта ўдача? У дзіравым корабе я, відаць, нарадзіўся...* Самуйлёнак.

*НАРАСПАШКУ* ● **ДУША НАРАСПАШКУ** *ў каго.* Гл. душа.

*НАРВАЎСЯ* ● **НЕ НА ТАГ\`О (НЕ НА Т\`УЮ) НАРВ\`АЎСЯ**. *Зак. Вык. Праст.* Ужыв. пры адсутным дзейн. са знач. асобы. Маеш справу не з тым, на каго разлічваў; недаацэньваеш таго, з кім маеш справу. **Сін**.: не на таго напаў. *Пабачым яшчэ, пабачым... Не-е-э, брат! Не на таго нарваўся, не з тым маеш справу...* Гартны. *Яшчэ з парога яна заявіла: «Гэта я – фрау Руйкоўская. А вы ўжо, відаць, мяне і не чакалі. Ды не на тую нарваліся».* Законнікаў. *Не шлындайся, кажуць, не дуры галаву. Толькі ж не на тую нарваліся: гужы парву, а свайго дамагуся.* Кандрусевіч. *Воўк сабакі не баіцца, але звягі наравіцца. Яна будзе мянціць языком, а я цярпецьму – не на таго нарвалася.* Адамчык. *Пакуль выбіўся ў людзі – прыйшлося дык прыйшлося. Шмат знаходзілася малайцоў, якія спрабавалі абысці Лебяду. Ды не на таго нарваліся.* Палітыка.

*НАРОСХРЫСТ* ● **ДУША НАРОСХРЫСТ** *у каго.* Гл. душа.

*НАСЕЯНА* ● **НЕ П\`ОЛЕ НАС\`ЕЯНА (ПАС\`ЕЯНА, ЗАС\`ЕЯНАЕ)** *каго. У безас. ужыв. Разм.* Вельмі мала. Часцей пра людзей. **Сін**.: з вераб'ёў нос (у 1 знач.); з жабіны прыгаршчы *чаго*, з камароў нос (у 1 знач.); з макава зерне; кропля ў моры <*чаго*>*;* курам на смех (у 3 знач.); на жабін скок (у 2 знач.); на заячы скок; на капейку; на макава зерне; на пальцах можна пералічыць *каго, што;* на панюх табакі (у 1 знач.); на шэлег (у 1 знач.); раз-два і ўсё *каго, чаго;* як кату; <як> кот наплакаў *каго, чаго;* як старой бабе сесці *чаго. Да доктаркі я, да доктаркі. Казік мой памірае... А ў мяне іх не поле насеяна. Казік меншанькі. Агнём палае, трызніць немаведама што, падхопліваецца...* Гроднеў. *— І хто зачакаўся там нас? —А хоць бы і Міхась. Разам гадаваліся некалі, стрыечны ж брат. У мяне ж братоў не поле пасеяна!..* Парахневіч. *— То ў нас іх не поле засеянае... «Не поле засеянае», — паўтараю сам сабе, каб не забыцца, хоць чуў ужо не раз ад людзей...* Янкоўскі. **ПОЛЕ**

**НАСЕЯНА** *каго.* З супрацьлеглым знач. — *у пытальных ск. —Трэба Хведзьку свой куток прыдбаць. —За якія такія заробкі?.. —Нешта абмыслім. Ш ж нас поле насеяна? Мы — удвух.* Саламаха.

*НАСІЛА* ● **КАБ ЗЯМЛЯ НЕ НАСІЛА** *каго.* Гл. зямля.

**НЯЧЫСТАЯ СІЛА НАСІЛА** *каго дзе.* Гл. сіла.

*НАСІЦЦА* ● **НАС`ІЦЦА Ў ПАВ`ЕТРЫ.** *Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Няўхільна набліжацца, адчувацца. Пра думкі, ідэі, з'явы і пад. **Сін**.: наступаць на хвост *каму* (у 2 знач.); стукацца ў дзверы (у 2 знач.); стукаць у дзверы (у 2 знач.). *«Ты перабудаваўся?» — гэта пытанне не проста носіцца ў паветры, а яго вось-вось пачнуць тыражыраваць друк і гучнагаварыцелі, развешаныя па ўсіх вуліцах.* Кудравец.

*НАСІЦЬ* ● **ЗА ПЛЯЧ`АМІ (-`ЫМА) НЕ НАС`ІЦЬ** *што. У безас. ужыв. Разм.* Што-н. не абцяжарвае каго-н. сваім існаваннем і можа спатрэбіцца. **Сін**.: есці не просіць. *Усе старэйшыя іх дзеці да вайны вучыліся, але ў вольны час працавалі фізічна і мелі сваю прафесію, якую, па словах Сцяпана Захаравіча, за плячыма не насіць.* Гурскі. — *Навошта мне гэтая музыка? —За плячамі не насіць. Некалі спатрэбіцца.* Радкевіч. *[Дзядзька Міхей] аднойчы выказаў нам: «Заваюем гэта званне — слава будзе! А яе за плячыма на насіць».* Кузьмянкоў.

**НАС`ІЦЬ ВАД`У Р`ЭШАТАМ.** *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіць што-н. безвынікова, заведама ўпустую. **Сін**.: гуляць у бірулькі; пераліваць з пустога ў парожняе (у 1 знач.); таўчы ваду ў ступе (у 1 знач.). —*А ты сам падумай, што гэта значыць. — Нашто думаць. Тут няма чаго і думаць — нашто адмыкаць адамкнёныя дзверы, гэта тое самае, што рэшатам ваду насіць.* Чорны. *Кірыла прамаўчаў: лішне гаварыць – як рэшатам ваду насіць.* Асіпенка.

**НАС`ІЦЬ М`АСКУ** *каго, чаго. Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прытварацца, прыкідвацца кім-н. ці якім-н. **Сін**.: іграць ролю (у 3 знач.); надзяваць <на сябе> маску (у 2 знач.). **Ант**.: скідаць маску. *Ён [Тварыцкі] носіць маску прыніжанасці, каб выпрошваць дапамогу ў дзяржавы.* Шкраба.

**НАС`ІЦЬ НА РУК`АХ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Высока цаніць каго-н., даражыць кім-н. *Дзядзька.. і дудку скруціць вам, і стрэлку, і нарысуе нават елку, — такую выштукуе цацку, а ў Свержань пойдзе — купіць пляцку... Дык і не дзіва, што любілі, што на руках яго насілі.* Колас. *Гэтакі ў цябе муж! Каб у мяне гэтакі быў, я б на руках яго насіла.* Лобан.

**2**. Надта песціць каго-н., выконваць усе жаданні каго-н. *Мікалай*

*абяцанак-цацанак на руках насіць не давай. Толькі песню «Выйдзі, каханая» на жалейцы сваёй напявай...* Бічэль-Загнетава. *І яшчэ думаў [Усцін Тарасавіч], што ён вылечыць вочы, што ён яшчэ не зусім стары, што яна пакахае яго, што ён будзе насіць яе на руках, што будзе гэтак жа моцна любіць і Юрку...* А.Марціновіч.

**НАС`ІЦЬ Р`ОГІ.** *Разм. Незак.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць раганосцам — мужам, якому здраджвае жонка. —А *як Юзэфа, яшчэ не сышлася з ім?.. —З кім?.. — Яна ж за Зарэмбам, інжынерам маслазавода, страляла, — Кулік не адважыўся паведаміць Шыманскаму, што ён даўно носіць рогі.* Гурскі.

**НАС`ІЦЬ (ТРЫМ`АЦЬ, ХАВ`АЦЬ) К`АМЕНЬ ЗА П`АЗУХАЙ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Затойваць злосць на каго-н., быць гатовым зрабіць што-н. дрэннае каму-н. **Сін**.: мець вока (у 2 знач.); мець зуб *на каго;* мець сэрца *на каго;* не мець вока *на каго за каго, за што.* **Ант**.: мець вока (у 1 знач.). *Ён [Дуднікаў] не злапамятны, не носіць за пазухай камень, забывае крыўды.* Навуменка. *Жыццёвая проза не азмрочыла позірк жыццялюба, не зняверыла шчырага давер’я да людзей чалавека, які вышэй ад усяго цаніў таварыскасць, сяброўскасць, чалавека, які не насіў камень за пазухай.* Барадулін. *Сябар з фальшываю ласкаю — камень трымае за пазухай.* Дзяргай. *Нікан Лепятун вельмі ахвотна падтаквае, бо на Ахрэма ён здаўна хавае камень за пазухай: некалі той, купляючы ваўначоску, адмовіўся прыняць яго сваім хаўруснікам.* Кулакоўскі. *У ясным тым свеце — у нябыт ён не кануў! — ніхто не хавае за пазухай камень...* Свірка.

**НАСІЦЬ ХВОСТ ТРУБОЙ.** Гл. трымаць.

*НАСКОК* ● **КАВАЛЕР`ЫЙСКІ (-Я) НАСК`ОК (-І)**. *У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* Імклівыя, раптоўныя, нечаканыя для каго-н. дзеянні. *Германія – краіна стабільная, кавалерыйскіх наскокаў у сур’ёзных справах не практыкуе.* «ЛіМ». *Ёсць, вядома, нямала прыкладаў таго, калі пэўны пісьменнік з аднолькавым поспехам мог тварыць у некалькіх літаратурных жанрах. І ўсё ж... І ўсё ж я паўтараю: кавалерыйскім наскокам драматургію не «заваюеш».* Макаёнак.

*НАСКОКУ* ● **З НАСК`ОКУ.** *Акал. Разм.* **1**. Адразу, лёгка, без цяжкасцей (пераадольваць, браць, разбірацца і пад.). **Сін**.: з налёту (у 2 знач.). *З наскоку, вядома, нічога не зробіш, неабходна паўсядзённая карпатлівая работа.* «Звязда». *Фельетон, у рэшце рэшт, павінен быць не пра местачковых шэрлак-холмсаў, а пра тутэйшыя парадкі. А гэтага з наскоку не возьмеш.* Блакіт.

**2**. Зусім не задумваючыся, добра не разабраўшыся (рабіць што-н.). **Сін**.: заплюшчыўшы вочы; з бухты-барахты; з завязанымі вачамі; з кандачка; з налёту (у 3 знач.); на зламанне карка (у 1 знач.); на злом галавы (у 1 знач.); на скрут галавы (у 1 знач.); проста з моста. **Ант**.: з адкрытымі вачамі. *Не гарачыся... Мне ж трэба падумаць. А то як жа вырашаць справу з наскоку.* Гроднеў. *З гэтымі рысамі духоўнага складу Зазыбы звязаны і яго нетаропкасць у рашэннях, разумная абачлівасць.., нежаданне якую б там ні было справу рабіць з наскоку, «з бухты-барахты.* Бугаёў.

*НАСКОЧЫЛА* ● **НАСКОЧЫЛА КАСА НА КАМЕНЬ** <*у каго*>. Гл. каса.

*НАСКРОЗЬ* ● **БАЧЫЦЬ НАСКРОЗЬ.** Гл. бачыць.

*НАСОК* ● *Чый* **НАС`ОК ПАГЛЯДАЕ (ПАЗІР`АЕ) У ПЯС`ОК**. *У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. нядужы, слабы, нядоўга будзе жыць. *І пасля аперацыі [Максім] ходзіць на ўколы. Яда не лезе ўсё роўна яму ў горла, валасы выкачаліся, як у немаўляці. Дужа аслаб, ад ветру калываецца. Ужо яго насок пазірае ў пясок.* Лобач. [*Федароўскі*, с. 205: насок паглядае ў пясок – 'кажуць пра чалавека, блізкага да смерці'; *Лепешаў*, с. 50: *чый* насок паглядае ў пясок.]

*НАСТАВІЦЬ* ● **НАСТАВІЦЬ АКУЛЯРЫ** *каму. Зак. да* **НАСТАЎЛЯЦЬ АКУЛЯРЫ** *каму..*

**НАСТ`АВІЦЬ В`УШЫ.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць уважліва прыслухоўвацца, насцеражыцца. **Сін.**: навастрыць вушы; натапырыць вушы; развесіць вушы; <увесь> ператварыўся ў слых. *Крушынскі спыніў вусную матэматыку. Наставіў вушы. Тупат ног...* Бядуля. – *Мабыць, Ганна недзе прыспала вашага чалавека... – Якая Ганна? – наставіў вушы Парфен Вяршкоў.* Чыгрынаў.

**НАСТ`АВІЦЬ Н`ОС** *каму. Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Апярэдзіўшы ў чым-н., зрабіўшы што-н. раней за іншых, тым самым пасароміць, зганьбіць і пад. каго-н. **Сін**.: даць фору *каму;* заткнуць за пояс *каго;* падцерці нос *каму. Сонца зайшло якраз у тую хвіліну, калі шчупакоўцы расфарміравалі трэці за дзень звышпланавы састаў... —Даю галаву на адсячэнне, што мы наставілі сёння нос альшанайцам.* Васілёнак.

**НАСТАВІЦЬ РОГІ** *каму. Зак. да* **НАСТАЎЛЯЦЬ РОГІ** *каму.*

*НАСТАЎЛЯЦЬ* ● **НАСТАЎЛ`ЯЦЬ АКУЛ`ЯРЫ** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Уводзіць у зман, паказваючы што-н. у фальшывым, скажоным, але выгадным для сябе выглядзе. **Сін**.: абводзіць вакол пальца *каго*; абуваць у лапці *каго;* бакі забіваць *каму;* браць на арапа *каго;* браць на бога *каго;* браць на вудачку *каго;* браць на пушку *каго;* вадзіць за нос *каго;* вешаць лапшу

<на вушы> *каму;* віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць у поле *каго*; гнуць дугі; гуляць у ката і мышку; дурыць галаву *каму* (у 1 знач.); задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); замазваць вочы *каму;* замыльваць вочы *каму;* запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму;* корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму;* прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму*; пускаць пыл у вочы *каму;* сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць вочы *каму*; туманіць галаву *каму.* **НАСТАВІЦЬ АКУЛЯРЫ** *каму. Зак. [Гарлахвацкі — адзін:] Правяральшчык знайшоўся! Я, брат, такія акуляры настаўлю, што табе і чорнае белым пакажацца. Не такіх за нос вадзілі!* Крапіва.

**НАСТАЎЛ`ЯЦЬ В`УШЫ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Напружана, уважліва прыслухоўвацца, насцярожвацца. **Сін**.: вастрыць вушы; глядзець у рот *каму* (у 1 знач.); натапырваць вушы; ператварацца ў слых; развешваць вушы (у 1 знач.); стрыгчы вушамі. *Дзве жанчыны за буфетам настаўляюць вушы. Услухоўваюся і я.* Карпюк.

**НАСТАЎЛ`ЯЦЬ Р`ОГІ** *каму. Незак. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы (жанчыны). Здраджваць мужу, становячыся палюбоўніцай іншага мужчыны. *Не абурыўся [Ротар Пятровіч], не рабіў сцэн, хоць, канечне, мала прыемнага, калі табе настаўляе рогі нават нелюбімая жонка.* Блакіт. *І жонка яму рогі настаўляла.., ды ён цярпеў, бо рваўся ў чыны.* Э.Валасевіч. **НАСТАВІЦЬ РОГІ** *каму. Зак. Баіцца страціць сваю Ірыну і Агацін, дарма што наставіла рогі.* «ЛіМ».

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы (мужчыны). Ашукваць мужа, стаўшы палюбоўнікам яго жонкі. *І сэнс жыцця адразу стаў відзён: не настаўляйце сябру рогі!* Міськo. **НАСТАВІЦЬ РОГІ** *каму. Зак. Думка пра тое, што ён [Карнач] можа наставіць рогі самаўпэўненаму, пыхліваму і нядобразычліваму да яго Макаеду, рассмяшыла.* Шамякін.

*НАСТРОІЦЬ* ● **НАСТРОІЦЬ ЛЫЖЫ** *куды, адкуль. Зак.* да **НАСТРОЙВАЦЬ ЛЫЖЫ** *куды, адкуль.*

*НАСТРОЙВАЦЬ* ● **НАСТРОЙВАЦЬ ЛЫЖЫ** *куды, адкуль.* Гл. вастрыць.

*НАСТУПАЦЬ* ● **НАСТУП`АЦЬ НА Г`ОРЛА (НА ГЛ`ОТКУ)** *каму, чаму. Незак. Праст. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымушаць рабіць так, як хочацца, як выгадна каму-н. **Сін**.: браць за горла *каго;* браць за жабры *каго*; браць за шчэлепы *каго;* станавіцца на горла *каму.* **НАСТУПІЦЬ НА ГОРЛА (ГЛОТКУ)** *каму, чаму. Зак. Калі нам удасца падвесці масы, як гаворыцца, да барыкад, тады мы зможам наступіць на горла фашызму, тады прадыктуем сваю волю...* Пестрак. *[Грыпіна:] Вы ўдваіх з жонкай, і ты мужчына — і сам усё зробіш і ўсюды даб’ешся, а трэба, дык і на глотку наступіш.*

Кудравец.

**НАСТУП`АЦЬ НА ГР`АБЛІ**. *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Рабіць непрадуманы крок з магчымымі непрыемнымі наступствамі для таго, хто гэта робіць. *Паслушэнства, падпарадкаванасць і пакорлівасць змушалі нашых людзей наступаць на граблі, якія яшчэ раз стукнулі іх па лобе.* «Звязда». *Ю.Віцьбіч – пісьменнік непрадказальны, загадкавы, творам якога часцей уласцівы і іншасказальнасць, «скрытая» асацыятыўнасць, «намёкавасць» (таму і здаралася, што савецкія публікатары ягоных апавяданняў ці нарысаў... «наступалі на граблі»).* Пашкевіч. **НАСТУПІЦЬ НА ГРАБЛІ**. *Зак. Улады хутка зразумелі, што зноў наступілі на граблі і праз 16 гадзін [арыштаванага] выпусцілі. Праўда, з умовай, што пасля з'езда ён усё ж адбудзе пакаранне.* «ЛіМ».

**НАСТУП`АЦЬ НА Д`УШУ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дзейнічаць на самалюбства, годнасць каго-н. **Сін**.: браць за душу; за жывое браць *каго* (у 1 знач.); кранаць сэрца *чыё, каго.* **НАСТУПІЦЬ НА ДУШУ** *каму. Зак. Паслаць прывітанне Веры, значыць, наступіць на душу Ірыне.* Новікаў.

**НАСТУП`АЦЬ НА МАЗ`ОЛЬ (НА МАЗАЛ`І)** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Закранаць тое, што асабліва хвалюе каго-н., выклікае боль, пакуты. **Сін**.: за жывое браць *каго* (у 2 знач.). *Але вельмі ўжо смела наступаў старшыня некаторым асобам на мазоль, ламаў старыя парадкі.* Навуменка. *Чуць мы з ім не сябравалі ж, на Падхлюпінскай жылі, хоць ён дрэнны быў таварыш — наступаў на мазалі.* Крапіва. *І вось пан Канстанцін Кроер асмеліўся патроху парушаць звычай, непрыкметна наступаючы мужыкам на мазалі.* Караткевіч. **НАСТУПІЦЬ НА МАЗОЛЬ (НА МАЗАЛІ)** *каму. Зак. Леснікі шышкі не збіраюць, на сушню не вязуць, а ты баішся ім на мазоль наступіць.* Карамазаў.

**НАСТУП`АЦЬ НА НАГ`У (НА Н`ОГІ)** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Крыўдзіць, закранаць каго-н.; ушчамляць чые-н. інтарэсы. **Сін**.: наступаць на хвост *каму* (у 1 знач.). «*Зараз падыдзе і ўгаворваць стане, — раздражняючыся, на ўсякі выпадак, думаў ён [Аляксей] і адчуваў, як расце ў ім упартасць. —Аднак, калі адкрыта ўздумае на ногі наступаць, то і мы можам... Я яму скажу, калі што...*» Карпаў. *Нікога не бойся... Нікому не давай наступаць табе на нагу, хоць бы ён быў богам...* Караткевіч. **НАСТУПІЦЬ НА НАГУ (НА НОГІ)** *каму. Зак.*

**НАСТУП`АЦЬ НА П`ЯТЫ (НА П`ЯТКІ)** *каму. Незак. Разм.* Ужыв.

пры дзейн. са знач. асобы. Даганяць каго-н. у якой-н. справе, набліжаючыся да яго вынікаў. *[Валя:] Гэта мы з ёй за хлопца пасварыліся. [Патапаў:] І тут яна табе на пяты наступае.* Крапіва. *Радаваўся за дзяўчат Зміцер Сіманенка — не прапала марна яго старанне, хоць самому з кожным днём станавілася цяжэй: па рабоце многія ўжо наступалі яму на пяткі.* Мыслівец. *А здорава наступаеце вы адзін аднаму на пяткі! Ты ўжо ў лік студзеня будучага года куеш.* Капусцін. **НАСТУПІЦЬ НА ПЯТЫ (НА ПЯТКІ)** *каму. Зак.*

**НАСТУП`АЦЬ НА ХВ`ОСТ** *каму. Незак. Праст.* 1. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Крыўдзіць, закранаць каго-н.; ушчамляць чые-н. інтарэсы. **Сін**.: наступаць на нагу *каму. Не дазволю, каб мне на хвост наступалі.* Калодзежны. **НАСТУПІЦЬ НА ХВОСТ** *каму. Зак. Канешне, асцерагацца яго трэба, пусты чалавек, уся душа яго ў місцы, за яе толькі і трымаецца. Такі чалавек можа ў гэтай місцы і ўтапіць, калі хто наступіць яму на хвост.* Лынькоў. *А Людміла Сяргееўна ў штыхі — не аддам Колю — і канцы. У раён паехала, даказвала і дабілася-такі свайго. Тым самым Паўловічу на хвост наступіла.* Радкевіч.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Набліжацца да каго-н. **Сін**.: насіцца ў паветры; стукацца ў дзверы (у 2 знач.); стукаць у дзверы (у 2 знач.). *—А ты зусім не мяняешся. Усё такая ж, як некалі да Лёнькі бегала... —Дзе ўжо тое, успомніў... Старасць на хвост наступае, — адказала Яніна, пільна пазіраючы яму ў вочы.* Кудравец. **НАСТУПІЦЬ НА ХВОСТ** *каму. Зак.*

**НАСТУП`АЦЬ НА ЯЗ`ЫК** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымушаць каго-н. маўчаць. **Сін**.: забіваць дух *каму;* закрываць рот *каму;* замазаць рот *каму*; затыкаць горла *каму* (у 1 знач.); затыкаць рот *каму;* павесіць замок на рот *каму*; укараціць язык *каму;* язык завязаць *каму*. **НАСТУПІЦЬ НА ЯЗЫК** *каму. Зак.*

**НАСТУП`АЦЬ САБ`Е НА Г`ОРЛА**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымушаць сябе рабіць так, як хочацца ці выгадна каму-н. *Тым пісьменнікам, якія мелі нейкія здольнасці і маглі працаваць, жылося ў Савецкай Беларусі нашмат лепей, ніж цяпер – і гэта пры найважнейшай акалічнасці, што не прыходзілася наступаць сабе асабліва на горла. Ці, можа, некаторым проста пашанцавала?* Асташонак.

**НАСТУП`АЦЬ САБ`Е НА ЯЗ`ЫК.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымушаць сябе маўчаць. **Сін**.: павесіць <сабе> замок на рот; праглынуць язык; прыкусіць язык; прышчаміць язык. **НАСТУПІЦЬ САБЕ НА ЯЗЫК.** *Зак. У Вадзіма ледзь не вырвалася:*

*«Валерка», але наступіў сабе на язык — навошта крыўдзіць падазрэннем? Чакаў, калі Юля сама аб усім раскажа.* «Маладосць».

*НАСТУПІЎ* ● **МЯДЗВЕДЗЬ НА ВУХА НАСТУПІЎ** *каму.* Гл. мядзведзь.

*НАСТУПІЦЬ* ● **НАСТУПІЦЬ НА ГОРЛА** *каму, чаму. Зак. да* **НАСТУПАЦЬ НА ГОРЛА** *каму, чаму.*

**НАСТУПІЦЬ НА ГРАБЛІ.** *Зак. да* **НАСТУПАЦЬ НА ГРАБЛІ.**

**НАСТУПІЦЬ НА ДУШУ** *каму. Зак. да* **НАСТУПАЦЬ НА ДУШУ** *каму.*

**НАСТУП`ІЦЬ НА К`ОРАК.** *Зак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выпіць спіртнога. **Сін**.: бачыць шклянога бога; браць у губу; вадзіць казу; глядзець у бутэльку; закідаць за гальштук; закідваць за каўнер; закладваць за каўнер; заліваць вочы <*чым*> (у 1 знач.); заліваць за каўнер; заліваць чарвяка; мокнуць у гарэлцы; наліць горла; не прасыхаць; панюхаць корак; прамачыць горла. **Ант**.: не браць у рот *што, чаго* (у 2 знач.). *Гаварыў ён [Янук] хрыпата і ўцешна, размахваў рукамі — па ўсім было відаць, што наступіў на корак.* Гроднеў. —А *ты недзе на корак, чую, наступіў... —Быў грэх, — прызнаўся Язэп.* Асіпенка.

**НАСТУПІЦЬ НА МАЗОЛЬ** *каму. Зак. да* **НАСТУПАЦЬ НА МАЗОЛЬ** *каму.*

**НАСТУПІЦЬ НА НАГУ** *каму. Зак. да* **НАСТУПАЦЬ НА НАГУ** *каму.*

**НАСТУПІЦЬ НА ПЯТЫ** *каму. Зак. да* **НАСТУПАЦЬ НА ПЯТЫ** *каму.*

**НАСТУПІЦЬ НА ХВОСТ** *каму. Зак. да* **НАСТУПАЦЬ НА ХВОСТ** *каму.*

**НАСТУПІЦЬ НА ЯЗЫК** *каму. Зак. да* **НАСТУПАЦЬ НА ЯЗЫК** *каму.*

**НАСТУПІЦЬ САБЕ НА ЯЗЫК.** *Зак. да* **НАСТУПАЦЬ САБЕ НА ЯЗЫК**.

*НАСУСТРАЧ* ● **ІСЦІ НАСУСТРАЧ** *каму, чаму.* Гл. ісці.

*НАСЫПАЦЬ* ● **НАС`ЫПАЦЬ С`ОЛІ НА Р`АНУ.** *Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зрабіць каму-н. непрыемнасць напамінкам пра штосьці ранейшае. *Скураны сёння насыпаў солі на рану: маўляў, збіў нас з тропу Жылуновіч, заскакалі пад яго дудку!* Далідовіч.

**НАС`ЫПАЦЬ С`ОЛІ НА ХВ`ОСТ** *каму. Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна дапячы, зрабіць непрыемнасць. **Сін**.: заліваць сала за скуру *каму. От... Хай адны пакруцяцца... калі маці не можа ўнаравіць. А закруцяцца! Насыплю ім солі на хвост!* Місько. *Пра дакументы, з-за якіх атрымалася растрата, магу сказаць адно: іх мне даваў на подпіс Леанід Мікітавіч, пераконваў мяне, што ўсё*

*законна і правільна. А таму Мікітавічу на хвост солі насыплеш! Подпіс не яго, а мой.* Радкевіч. *З Жадзейкам нічога не можа здарыцца. Яму і солі на хвост не насыплюць паны.* Машара.

*НАТАПЫРВАЦЬ* ● **НАТАП`ЫРВАЦЬ В`УШЫ.** *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Напружана, уважліва прыслухоўвацца, насцярожвацца. **Сін**.: вастрыць вушы; глядзець у рот *каму* (у 1 знач.); настаўляць вушы; ператварацца ў слых; развешваць вушы (у 1 знач.); стрыгчы вушамі. *—Калі так, то скажу: натапырвайце вушы, — дзяўчына ўголас засмяялася, —Ганнаю завуся я, падабаецца ці не?* Гартны.

*НАТАПЫРЫЦЬ* ● **НАТ`АПЫРЫЦЬ ВУШЫ.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць уважліва прыслухоўвацца, насцеражыцца. **Сін.**: навастрыць вушы; наставіць вушы; развесіць вушы; <увесь> ператварыўся ў слых. *Сціішыўся Трахім... Толькі вушы натапырыў, каб па голасе пазнаць, хто зайшоў у хату.* Калюга. *Пойдзем тады ў кабінет, а то дзед ужо натапырыў вушы.* Макаёнак.

*НАТУРА* ● **ДРУГ`АЯ НАТ`УРА.** *Мн. не ўжыв. Вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Арганічная патрэба, унутраная схільнасць, істотная рыса каго-н. *Што гэта было? Дзівацтва? Гульня? Насмешка? А можа, проста прывычка, што стала другой натураю?* Карпаў. *У яго ўзросце ўсякая дробязь мае значэнне, і асцярожнасць робіцца другой натурай.* Шыцік. *[Дземаш] пачаў вучыцца рабіць сваю работу. Гэта быў ягоны чэсны хлеб, і новая работа пакрысе стала другою натураю.* А.Жук.

**ШЫР`ОКАЯ НАТ`УРА.** *Мн. не ўжыв. Разм.* **1**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адкрыты, шчодры чалавек. З *такой жа маланкавай хуткасцю шафёр Арцюс можа «падкінуць» куды спатрэбіцца як сябрукоў, так і зусім незнаёмых людзей. Адным словам — шырокая натура... за дзяржаўны кошт.* «Звязда». *Іван — шырокая натура — сустрэўся неяк са знаёмым. —Здароў, браток! Давай закурым! Я партабак забыў свой дома.* Сушко.

**2**. *у каго. У безас. ужыв.* Хто-н. з адкрытым, не дробязным характарам. *Я, брат, душа, душа-чалавек! У мяне шы-ы-рокая натура!* Лупсякоў. *Зяця — майго бацьку — дзед Ціхан недалюбліваў, бо ў бацькі была шырокая натура.* Кухараў.

*НАТУРЫ* ● <u>Чалавек</u> **ШЫР`ОКАЙ НАТ`УРЫ.** *Кампанент вык. Разм.* З адкрытым, не дробязным характарам ці з вялікім размахам дзейнасці. *—Вашага гаспадара мы ведаем. —Чалавек шырокай натуры, — вітаючыся, гаварыў Ганс.* Гурскі. *Ведаеш, Лазавенка — чалавек шырокай натуры. Чаго варта адно яго жаданне кіраваць*

*такім калгасам, у якім працаваў бы не адзін які-небудзь скалечаны «ХТЗ», а цэлая трактарная брыгада, а то і дзве.* Шамякін.

*НАЎМЕ* • **САБ`Е НАЎМ`Е.** *Вык. Разм. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі скрытны, хітры. *Гэты чалавек сабе наўме. Умее выкарыстаць палітычныя абставіны ў сваю карысць.* Машара. *Гэтая Сцяпанаўна — жанчына сабе наўме. І парады добрыя дае, і гаворыць то з даверам, шчыра, то вернецца раптам да таго, з чым пагадзіліся і ў што паверыла. І як бы ўвесь час пабойваецца гаварыць і азіраецца.* Савіцкі. *—Старыя розныя бываюць, — цішэй загаварыла маці. —Адзін за ласку гатовы ўсё аддаць, а іншы сабе наўме.* Ярашэвіч. *[Яніна], бачна па ёй, не любіць хітраваць, душу адкрытай трымае. А той [Антон] — сабе наўме, той — хітрун.* Дайнека.

*НАЎСКАСЯК* • **СЯК-ТАК НАЎСКАСЯК <АБЫ НЕ ПА-ЛЮДСКУ>.** Гл. сяк.

*НАЦІСКАЦЬ* • **НАЦІСК`АЦЬ НА ЎС`Е ПЕД`АЛІ (КН`ОПКІ).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыкладаць усе намаганні для дасягнення чаго-н. *Лаяна кінуўся ў паліцыю, націскаў на ўсе педалі сваіх шырокіх знаёмстваў з дзелавым і афіцыйным светам.* Лынькоў. **НАЦІСНУЦЬ НА ЎСЕ ПЕДАЛІ (КНОПКІ).** *Зак. Ведаеш, каб ад аднаго цябе залежала, дык націснуў бы ўжо, як кажуць, на ўсе педалі. Быць не можа, каб чалавек не зрабіў таго, што можа зрабіць.* Ермаловіч. *У мяне мэбля амаль такая ж... Колькі я за ёй пабегаў! Уявіць не можаш. Як гаворыцца, на ўсе кнопкі націснуць давялося.* Кацюшэнка.

*НАЦІСНУЦЬ* • **НАЦІСНУЦЬ НА ЎСЕ ПЕДАЛІ.** *Зак. да* **НАЦІСКАЦЬ НА ЎСЕ ПЕДАЛІ.**

*НАЦЯГНУЦЬ* • **НАЦЯГН`УЦЬ Н`ОС (-А)** *каму. Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Апярэдзіўшы ў чым-н., зрабіўшы што-н. раней за іншых, тым самым пасароміць, зганьбіць і пад. каго-н. **Сін**.: даць фору *каму*; заткнуць за пояс *каго*; наставіць нос *каму*; падцерці нос *каму. – Го-го-го-го! – зарагатаў сівы. – Значыцца, нацягнулі найяснейшаму носа. І акрузе таксама. Ну, добра! Ну, гэта люблю!* Караткевіч. *Наваколле ўхваляла: малайчына Вежа, нацягнуў нос французам.* «Полымя».

*НАЧАВАЎ* • **І (Н`АВАТ) НЕ НАЧАВ`АЎ (-ЛА, -ЛІ).** *Разм.* **1.** *у каго, з кім, каля каго, дзе.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. і (радзей) канкр. прадмета. Зусім няма чаго-н. *Сумленне ў пана Ясінскага і не начавала.* Якімовіч. *Сорам з вамі нават не начаваў. Але няўжо вы не ведаеце, што гэта нядзейсны з фінансавага боку ўчынак? Што гэта крымінал?* Караткевіч. *Як часта мы выдаём за ісціну тое, што, як*

*кажуць, ля ісціны і не начавала.* «ЛіМ». *У які б магазін ён ні заходзіў, ад прадаўшчыц чуў адзін і той жа адказ: —Кажушкі, дзядзька, у нас і не начавалі* «Вожык».

**2.** *з чым.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Не мае нічога агульнага з чым-н. **Сін**.: і блізка не стаяў *каля каго, каля чаго. —Вось што, скажы ты мне, хлопец, толькі не мані, скажы як на духу — не грамафон гэта? —Ды не, дзед, і не начавала з грамафонам.* Лынькоў.

*НАЧАВАЦЬ* • **<I> ДНЯВАЦЬ І НАЧАВАЦЬ** *дзе, у каго.* Гл. дняваць.

*НАЧАЛЬНІК* • **<I> ЦАР І БОГ І ВОІНСКІ НАЧАЛЬНІК.** Гл. цар.

*НАЧНАЯ* • **НАЧНАЯ ЗЯЗЮЛЯ.** Гл. зязюля.

*НАЧУЕ* • **БОГ НАЧУЕ** *дзе.* Гл. бог.

*НАШ* • **НАШ БРАТ.** Гл. брат.

**ЯК ОЙЧА НАШ.** Гл. ойча.

*НАША* • **ДЗЕ НАША НЕ ПРАПАДАЛА.** Гл. прападала.

**Н`АША БЯР`Э (УЗЯЛ`О, УЗЯЛ`А, В`ОЗЬМЕ).** *У знач. асаб. ск. Разм.* Мы перамагаем; выходзіць што-н. па-нашаму. Выказванне прызнання чыёй-н. перамогі. *Здолеем мы гэта зрабіць за адзін дзень – наша ўзяло, а засядзем у балоце – тут нам і крышка…* Крапіва. *Які там шкаляр! Няма шкаляра! Зразумеў? Цяпер наша ўзяла! Цяпер ты адзін жаніх!.. Хутчэй на вяселле!* Вольскі. *Часта такія, як Нічыпар, супярэчаць усяму, але – нічога, наша возьме.* Казько.

**Н`АША В`АМ.** *Выкл. Праст.* Жартаўліва-фамільярнае ці іранічнае прывітанне пры сустрэчы. **Сін**.: дзень добры!; маё шанаванне <*каму*>. *Вайсковец зірнуў на Галынскага, штурхануў локцем таварыша* і, *падняўшыся з месца, выцягнуўшы шыю, зазірнуў Галынскаму ў твар, пад каўнер паліто. —А-а-а! Буржуй загаварыў… Наша вам…* Галавач.

**НАША СЯСТРА.** Гл. сястра.

*НАШАГА* • **НАШАГА ПАЛКУ ПРЫБЫЛО.** Гл. прыбыло.

**НЕ НАШАГА БОГА.** Гл. бога.

**НЕ НАШАГА ПОЛЯ ЯГАДА.** Гл. ягада.

*НАШЫ* • **БРАТЫ НАШЫ МЕНШЫЯ.** Гл. браты.

*НАШЫМ* • **І Н`АШЫМ І В`АШЫМ** *служыць, дагаджаць* і пад. *Дап. Разм. Неадабр.* Адным і другім адначасова. **Ант**.: ні нашым ні вашым. *У нас, у гарадской управе, нямала такіх, што гатовы служыць і нашым і вашым.* Новікаў. *Такія, што і нашым і вашым служаць, — самыя нягодныя людзі.* Асіпенка. *Хто ён? Друг або вораг? А можа, проста адзін з тых, хто, чакаючы пэўнасці, хоча служыць і вашым і нашым?* Карпаў.

**НІ Н`АШЫМ НІ В`АШЫМ.** *Дап. Разм. Неадабр.* Ні адным і ні

другім (не служыць, не дагаджаць і пад.). **Ант**.: і нашым і вашым. *[Зазыба:] Яны вось і складаюць у маім уяўленні паняцце «людзі». Нават тыя, якіх ты правільна называеш «ні нашым ні вашым. Галоўнае тут усё-такі ў даверы. Недарма ж кажуць: некалі.. быў ні нашым ні вашым, а зрабіўся нарэшце свойскім.* Чыгрынаў. «*Хоча перачакаць час, — заяўляў ён [Сіла Прохаравіч] цётцы Мальвіне па-змоўніцку. —У бобікі не пайшоў і ў лес баіцца ісці. Адным словам, ні нашым ні вашым.* Навуменка.

*НАШЫХ* ● **АБТРЭСЦІ ПРАХ** *чый, каго, чаго* **З НОГ <НАШЫХ>.** Гл. абтрэсці.

**ВЕДАЙ НАШЫХ!** Гл. ведай.

**ДА НАШЫХ БАРАНОЎ** *вернемся.* Гл. бараноў.

*НЕ* ● **Н`Е-Н`Е ДЫ <І>; Н`Е-Н`Е ДЫЙ.** *Акал. Разм.* Праз які-н. час, зрэдку. **Сін**.: ад выпадку да выпадку; час ад часу (у 1 знач.); час-часом. *А Міхась не-не ды новую закавыку прыдумае.* Цётка. *Рая не-не ды пазірае на дом, у якім жыве Барыс, пазірае на іх вокны.* Арабей. *Не-не ды і ўспомніцца, як мы з табою на чаўнах ганяліся.* Колас. *Ціток не забывай гэтай сваёй цёткі — не-не дый забяжыць.* Лобан.

*НЕАБДЫМНАЕ* ● **АБДЫМАЦЬ НЕАБДЫМНАЕ.** Гл. абдымаць.

*НЕБА* ● **АД ЗЯМЛІ АДАРВАЦЦА І НЕБА НЕ ДАСТАЦЬ.** Гл. адарвацца.

**ВАЛІЦЦА З НЕБА** *каму, у каго.* Гл. валіцца.

**З НЕБА ЗВАЛІЎСЯ.** Гл. зваліўся.

**ЗОРАК З НЕБА НЕ ХАПАЕ.** Гл. хапае.

**КАПЦІЦЬ НЕБА.** Гл. капціць.

**МАННА З НЕБА СЫПЛЕЦЦА** *каму.* Гл. манна.

**МАННЫ З НЕБА** *чакаць.* Гл. манны.

**Н`ЕБА З АЎЧ`ЫНКУ ЗДА`ЕЦЦА (ЗДАВ`АЛАСЯ, ЗД`АСЦА)** *каму. У безас. ужыв. Разм.* Становіцца нязносна цяжка ад страху, болю і пад. **Сін**.: аслаблі гайкі *ў каго, чые* (у 1 знач.); валасы становяцца дыбам *у каго;* вочы на лоб лезуць *у каго* (у 2 знач.); душа ў пятках *у каго, чыя*; душа ў пяткі <схавалася> *у каго;* калені дрыжаць *у каго;* кроў ледзянее *ў каго;* кроў у жылах стыне *ў каго;* мароз па скуры <прабягае> *у каго, каго, чыёй*; мурашкі бегаюць па целе *ў каго, каго, чыім*; паджылкі трасуцца *ў каго;* скура шэрхне *на кім, у каго*; сэрца абрываецца *ў каго, чыё*; сэрца ледзянее *ў каго*; у пяткі кальнула *каму, каго* (у 1 знач.); <усе> блохі падохлі *ў каго. Што яны разумеюць, гэтыя максімалісты?.. Пабыць бы ім у яго скуры, калі неба здаецца з аўчынку, калі застаецца ўсяго адзін апошні шанц!* Блакіт. «*Во спіць, — падумала Марыйка. —Мусіць, невінаватую затрымалі, бо каб была шпіёнка, то не спала б як мёртвая. Ёй бы неба з аўчынку здавалася...*» Новікаў. *[Радовіч] дасць такога прачуханца, гэтак*

*усыпле — неба з аўчынку здасца.* Макарэвіч.

**Н`ЕБА Ў АЛМ`АЗАХ** *убачыць, пабачыць. Дап. Разм.* Штосьці жаданае, прыемнае. *[Людміла:] Я зусім знясілена. А мне вельмі хочацца жыць Мне хочацца выйсці замуж і ўбачыць неба ў алмазах. Мне хочацца купаць дзіця і ставіць яго ў кут.* Маўзон. *Мы яшчэ пабачым неба ў алмазах... Вось паглядзіш...* Гігевіч.

**Н`ЕБА Ў КЛ`ЕТКУ (КЛ`ЕТАЧКУ).** *Мн. не ўжыв. Часцей дап. ці дзейн. Разм.* Турма або іншыя месцы зняволення. **Сін.**: казённы дом; каменны мяшок (у 1 знач.). *[Арнольд:] Ты не ведаеш, дзе мы?.. Зірні ў акно. [Борка:] О, неба ў клетку. Усё. Выкінь са свайго беспрацоўнага жыцця пятнаццаць сутак, дзед. Давядзецца і табе закасаць рукавы.* Шабан. *Небараку Уладзіміру адвалілі салідны тэрмін пражывання ў мясцінах, дзе неба ў клетачку.* «Вожык».

**ПАПАДАЦЬ ПАЛЬЦАМ У НЕБА.** Гл. пападаць.

**УЗНОСІЦЬ ДА НЕБА** *каго, што.* Гл. узносіць.

**ХАПАЦЬ ЗОРКІ З НЕБА.** Гл. хапаць.

**ЯК ГРОМ З ЯСНАГА НЕБА.** Гл. гром.

**ЯК З НЕБА ЗВАЛІЎСЯ.** Гл. зваліўся.

**ЯК Н`ЕБА АД ЗЯМЛ`І** *адрозніваецца. Акал. Разм.* Вельмі моцна, рэзка (адрозніваецца хто-н. ад каго-н., што-н. ад чаго-н.). *Сяло даходзіць да кірмашовага пляцу. Далей яму ходу няма. Далей ідзе арыстакратычнае мястэчка. Ад свайго сярмяжнага суседа мястэчка адрозніваецца як неба ад зямлі.* Васілевіч. *Першая катэгорыя як неба ад зямлі адрозніваецца ад трэцяй.* Навуменка. *Бліны, што пякла цешча, адрозніваюцца ад жончыных як неба ад зямлі.* Шахавец.

**<ЯК, ШТО> Н`ЕБА І ЗЯМЛ`Я.** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Поўная процілегласць. *Места і вёска што неба і зямля.* Галубок. *—Ці нават вазьмі двух паноў: Зялінскага і Халяўку... Адзін без лаянкі і слова не скажа. Другі... —Яно праўда, —згаджаецца тата. —Як неба і зямля — розніца...* Каліна. *Успомніць мінулае і параўнаць яго з цяперашнім, — дык гэта.. неба і зямля.* Кулакоўскі. *Па характару Геляцюк з Сініцкім неба і зямля.* «Полымя». *Назаўтра «жанішок» пахваляўся мне, — ты ж ведаеш, ён не можа не пахваляцца, — што Ірэнчык не параўнаць з Недашэўскай — зямля і неба.* Масарэнка.

*НЕБАМ* ● **ВІСЕЦЬ ПАМІЖ НЕБАМ І ЗЯМЛЁЙ.** Гл. вісець.

**ГАМОНІЦЬ З НЕБАМ.** Гл. гамоніць.

**МІЖ (ПАМ`ІЖ) Н`ЕБАМ І ЗЯМЛ`ЁЙ.** *Разм.* **1**. *Акал.* Без пастаяннага жылля, дзе давядзецца (жыць, знаходзіцца і пад.). *Дык вось ён які, новы паваротак у жыцці! У якім жыцці? У бяздомніцтве, у*

*блуканні паміж небам і зямлёю.* Колас. *Як ёй, адной, з ім, калі і самой між небам і зямлёй жыць даводзіцца?* Мележ.

**2**. *Вык. і акал.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Далёка ад рэчаіснасці (быць, існаваць і пад.). *Душы іхнія, размякчаныя і разагрэтыя гарэлкай, ужо былі, як кажуць, між небам і зямлёю.* Дайнека.

**3**. *Вык. і акал.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У стане няпэўнасці, неўладкаванасці (быць, заставацца і пад.). *[Антон] адчуваў, што без пэўнага рашэння доўга тут не прабудзе. Немагчыма жыць між зямлёй і небам...* Быкаў. *Ведаеш, колькі тут валынкі было!.. Пакінулі ферму паміж небам і зямлёй. Калгас перадалі, а трусоў... быццам іх і зусім не было.* Ракітны. *—Вось, дзядзя Косця, — загаварыў Эдзік, — ірвуся ў вёску. А думаеце, пажыў бы я там доўга? Не. З горада цягне ў вёску, з вёскі — у горад. Плаваю паміж небам і зямлёй.* Цяжкі.

**НЕБАМ КРЫТЫ.** Гл. крыты.

**ПАД АДКР`ЫТЫМ Н`ЕБАМ.** *Акал. Функц. не зам.* На вуліцы, не ў памяшканні. **Сін**.: на свежым паветры; пад богавай страхой (у 1 знач.); пад голым небам. *Мужчыны тады навалаклі з вёскі саломы, паклалі дзяцей цесна адзін каля аднаго пад адкрытым небам.* Карпюк. *Адзявайся цяплей. Ты і не ўяўляеш, як яно пад адкрытым небам. А то так прастудзішся, што хопіць на ўсё жыццё.* Гаўрылкін. *Даволі ладны час прастаяла яна [малатарня] пад адкрытым небам, і яе добра-такі паела ржаўчына.* Пашкоў.

**ПАД Г`ОЛЫМ Н`ЕБАМ.** *Устар. Акал. Разм.* На вуліцы, не ў памяшканні. **Сін**.: на свежым паветры; пад адкрытым небам; пад богавай страхой (у 1 знач.). *[Паніч:] Каб за табой праўда была, то не сядзеў бы гэтак пад голым небам.* Купала. *А вялікі, вялікі горад. Народ у ім не месціцца: большая палова жыве пад голым небам...* Цётка.

*НЕБЕ* ● **ЖУРАВЕЛЬ У НЕБЕ.** Гл. журавель.

<u>Быць, адчуваць сябе</u> **НА С`ЁМЫМ (ДЗЕС`ЯТЫМ) Н`ЕБЕ** *<ад чаго>*. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Бязмерна шчаслівым, вельмі задаволеным (быць). *Мы, малыя, дзеці школьнага ўзросту, на сёмым небе. Будзем хадзіць у школу. У нас будзе школа. Так хацелася ўмець чытаць і пісаць!* Ермаловіч. *Праўленцы мае на дзесятым небе, пальчыкі аблізваюць, рукі паціраюць.* Лобан. *За нашу ігру нам доўга пляскалі ў ладкі. Мы былі, як гаворыцца, на дзесятым небе.* Пальчэўскі. *Настрой у мяне сёння выдатны! Я адчуваю сябе на сёмым небе!* Э.Валасевіч. *Яна [Лета] наварыла яму сваёй любімай стравы і думала, што яе каханы будзе на сёмым небе ад радасці.* Сіпакоў. *Дзянёк быў сонечны, не халодны, і апранутая ў цёплы кажух,*

*усеўшыся ў сані, Маечка была на дзесятым небе ад радасці.* Краўчанка.

*НЕБУ* ● **НЕБУ ГОРАЧА БЫЛО**. Гл было.

*НЕВЫСОКАГА* ● **ПТУШКА НЕВЫСОКАГА ПАЛЁТУ.** Гл. птушка.

*НЕВЯДОМЫМІ* ● **ЗАДАЧА СА ШМАТЛІКІМІ НЕВЯДОМЫМІ.** Гл. задача.

*НЕГАДАНА* ● **НЕЧАКАНА-НЕГАДАНА.** Гл. нечакана.

*НЕДАЛЁКА* ● **НЕДАЛЁКА АДЫШОЎ** *ад каго.* Гл. адышоў.

*НЕДАРЭЗАНЫ* ● *Крычаць, храпці* **ЯК НЕДАР`ЭЗАНЫ (-АЯ, -АЕ, -ЫЯ).** *Акал. Праст.* Вельмі моцна, гучна, нястрымана. **Сін.**: благім матам; з усіх жыл (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 3 знач.); на поўную сілу (у 3 знач.); на поўныя грудзі (у 2 знач.); на ўвесь голас (у 1 знач.); на ўвесь свет (у 1 знач.); на ўсе грудзі (у 2 знач.); на ўсе застаўкі (у 1 знач.); на ўсё горла; на ўсю глотку; на ўсю іванаўскую (у 1 знач.); на ўсю моц (у 3 знач.); немым голасам; не сваім голасам; што ёсць духу (у 2 знач.); што ёсць сілы (у 3 знач.); <як> іерыхонская труба (у 2 знач.); як рэзаны. *[Вартавы:] Стой!.. Каравул! Ратуйце!.. [Адзін з натоўпу:] Чаго крычыш як недарэзаны?* Мележ. *—Ты чаго крычыш як недарэзаны? — абурыўся Юрка Старкоў.* Крыга.

*НЕДЗЕ* ● **КЛЯЙМА СТАВІЦЬ НЕДЗЕ** *на кім.* Гл. няма.

**Н`ЕДЗЕ В`ОЧЫ (ВАЧ`ЭЙ) ДЗЯВ`АЦЬ (ДЗ`ЕЦЬ)** *каму. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. не ведае, як паступіць у няёмкім становішчы, пры адчуванні сораму, збянтэжанасці і пад. *Маўчаць дзядзькі ў чарзе, на нас глядзяць усе. Нам некуды глядзець, нам — недзе вочы дзець.* Куляшоў. *—Хіба табе Анюткі мала? То вазьмі да цёткі падкаціся. Яшчэ можна, — і Параска залілася такім смехам, што Цітку вачэй недзе дзяваць было.* Лобан.

**НОСА НЕДЗЕ ЎБІЦЬ.** Гл. няма.

*НЕЗАБІТАГА* ● **ДЗЯЛІЦЬ ШКУРУ НЕЗАБІТАГА МЯДЗВЕДЗЯ.** Гл. дзяліць.

**ПАДЗЕЛ СКУРЫ НЕЗАБІТАГА МЯДЗВЕДЗЯ.** Гл. падзел.

*НЕКАТОРЫМ* ● **У НЕКАТОРЫМ РОДЗЕ.** Гл. родзе.

*НЕКУДЫ* ● **ДАЛ`ЕЙ Н`ЕКУДЫ (НЯМ`А КУД`Ы).** *Часцей у знач. вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. **1**. *Адабр.* Лепш не можа быць. **Ант.**: далей ехаць няма куды. *Тут можна такое культурнае гняздо зрабіць, што далей некуды. І дзеці нашы будуць вучыцца, і самі хадзіць сюды будзем.* Колас. *А я цябе адразу заўважыла... Такія святочныя з Віталем, далей няма куды! Паліто з каўняром, як у старшынь калгасаў.* Саламаха.

**2**. З процілеглым знач. *Неадабр.* Горш не можа быць. **Сін.**: далей ехаць няма куды. *Селязнёў усё ярыцца, грозіцца Мароза да яліны*

*паставіць. Ну, думаю, калі ўжо да яліны дайшло, то справа сапраўды сур’ёзная. А справа сапраўды далей некуды.* Быкаў. *—Трымаў бы ты сваю псіну на ўласных каленях, — узрываецца кінаапаратар. — Абрыдла, далей некуды.* Петрашкевіч. *Можа быць горш. Хоць горш не трэба. І так пагана, далей, здаецца, няма куды.* Мележ.

**ПЛ`ЮНУЦЬ Н`ЕКУДЫ.** *Толькі ў форме інф. У безас. ужыв. Праст.* Вельмі многа, у вялікай колькасці. Пра мноства каго-, чаго-н. **Сін**.: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу *<чаго>;* валіцца цераз горла *ў каго;* вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго;* да гібелі *каго, чаго;* дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго;* да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго;* з горла прэ *ў каго;* імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго;* не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго;* па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго;* хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым;* хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго;* <хоць> плот гарадзі *кім, каго;* хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго;* чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго;* як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. [Вольга:] Колькі б разоў яна [цэркаўка] за сем вякоў ні гарэла, колькі б разоў ні адбудоўвалася, магілянскія майстры ўзнаўлялі яе першародны воблік, як памяць тых, што пайшлі ў небыццё. [Шэгелеў:] Вас паслухаць, дык плюнуць некуды...* Петрашкевіч.

*НЕЛЬГА* ● **ПА С`АМАЕ Н`ЕЛЬГА.** *Акал. Разм.* Спаўна, як толькі можна (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін**.: на поўную катушку (у 3 знач.); на поўную сілу (у 2 знач.); на ўсе застаўкі (у 4 знач.); на ўсю жалезку (у 1 знач.); на ўсю іванаўскую (у 2 знач.); па самае годзе (у 1 знач.); па самае не хачу. *Яго, Міхедаў, хутар абрэзалі, як той казаў, па самае нельга, а ўзамен яму далі тры гектары пясчанай няўдобіцы.* Сабаленка. *Магу, дзед. Усё магу. Па самае нельга.* Ярашэвіч.

*НЕМАЧ* ● **Н`ЕМАЧ ЯГ`О (Я`Е, `ІХ, ЦЯБ`Е, В`АС) В`ЕДАЕ.** *Часцей у знач. галоўн. ск. Праст. Неадабр.* Невядома. **Сін**.: агонь яго ведае; алах яго ведае; вятры яго ведаюць; кадук яго ведае; ліха яго ведае; нячысцік яго ведае; пярун яго ведае; трасца яго ведае; халера яго

ведае; хвароба яго ведае; хрэн яго ведае; хто яго ведае; чамярыца яго ведае; чорт яго ведае. *[Альжбета:] З кім ты гэтак намурзаўся? [Сцяпан:] Я і з тым, я і з сім, а ты, каханенькая, родненькая, згадай, — з кім? [Альжбета:] А немач цябе ведае з кім.* Купала. *А конікаў гэтых — і меншых і большых, і немач іх ведае — ажно ў вушах цісікае...* Брыль.

*НЕМЫМ* ● **НЕМЫМ ГОЛАСАМ.** Гл. голасам.

*НЕНАЕДНАЯ* ● **ЗЯМЛЯ НЕНАЕДНАЯ.** Гл. зямля.

*НЕНАЕЖНАЯ* ● **ЗЯМЛЯ НЕНАЕЖНАЯ.** Гл. зямля.

*НЕПАЧАТЫ* ● **НЕПАЧАТЫ КРАЙ** *чаго.* Гл. край.

*НЕРАТ* ● **ПАПАСЦІСЯ Ў НЕРАТ <НІ ЎЗАД, НІ ЎПЕРАД>.** Гл. папасціся.

*НЕРВАЎ* ● **ПСАВАННЕ НЕРВАЎ**. Гл. псаванне.

*НЕРВАХ* ● **ІГРА НА НЕРВАХ** *<чыіх>*. Гл. ігра.

**ІГРАЦЬ НА НЕРВАХ** *<чыіх, каму>*. Гл. іграць.

**ПАЙГРАЦЬ НА НЕРВАХ** <чыіх, каму>. Гл. пайграць.

*НЕРВЫ* ● **ДЗЕЙНІЧАЦЬ НА НЕРВЫ** *каму.* Гл. дзейнічаць.

**ПАПСАВАЦЬ НЕРВЫ** *каму.* Гл. папсаваць.

**ПАРВАЦЬ НЕРВЫ.** Гл. парваць.

**РАСТУЗАЦЬ НЕРВЫ** *каму.* Гл. растузаць.

**РВАЦЬ НЕРВЫ.** Гл. рваць.

**ТРЫМАЦЬ НЕРВЫ Ў РУКАХ.** Гл. трымаць.

**ТУЗАЦЬ НЕРВЫ.** Гл. тузаць.

*НЕСЛА* ● **ЯКОЕ ЛІХА НЕСЛА** *каго куды.* Гл. ліха.

*НЕСЛІ* ● **НОГІ НЕСЛІ** *каго.* Гл. ногі.

*НЕСЦІ* ● **М`ІМА Р`ОТА НЕ Н`ЕСЦІ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не прапускаць магчымасць пакарыстацца чым-н. *—А п'юць? —Ды міма рота не нясуць. Яно, калі з марозу, скажам, ці перакусваючы, дык чаму са сваім чалавекам не выпіць.* Брыль. **МІМА РОТА НЕ ПРАНЕСЦІ.** *Зак. Красці яны не пойдуць, а калі што ў рукі пападзецца, міма рота не пранясуць.* Юрчанка.

**Н`ЕСЦІ <СВ`ОЙ> КР`ЫЖ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Цярпліва пераносіць жыццёвыя цяжкасці, выпрабаванні. *Не той ён чалавек, каб лёгка ўсё пакінуць, на ўсіх забыцца, дзеля дзяцей ён гатовы несці свой крыж да скону жыцця.* Шамякін. *Нёс свой крыж пакутніка.. яго сябар — Сцяпан Амельянюк.* Новікаў. *Мае знаёмыя.. жывуць, цярпліва долю смычуць і крыж нясуць мужычы ціха, дабра не бачачы з-за ліха.* Колас.

**Н`ЕСЦІ СЯБ`Е ВЫС`ОКА.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Трымацца высакамерна, ганарліва. **Сін**.: драць нос; завысока ляцець; задзіраць хвост; капыліць нос; паднімаць хвост; распускаць <павіны> хвост; хварэць на пана (у 2 знач.). *Дубейка нёс*

*сябе высока, насіў манішку і манкеты і лічыў сябе найпершым кавалерам...* Колас. *Жыздрыцкія камсамольцы высока сябе несці пачалі. Яны не абы-што — актыў ячэйкі.* Калюга.

*НЕЧАГА* ● **АД НЕЧАГА РАБІЦЬ.** Гл. няма.

**НЕЧАГА БОГА ГНЯВІЦЬ.** Гл. няма.

**НЕЧАГА СКАЗАЦЬ.** Гл. сказаць.

*НЕЧАКАНА* ● **НЕЧАК`АНА-НЕГАД`АНА.** *Акал. Разм.* Зусім неспадзявана, раптоўна, нечакана (з'явіцца, здарыцца і пад.) **Сін.:** адкуль ні вазьміся; ні адсюль ні адтуль; як гром з яснага неба ( у 1 знач.); як снег на галаву (у 1 знач.). *Але вось аднаго разу нечакана-негадана бяда здарылася, ды такая, якой самы старэйшы селянін вёскі не памятае.* Чарот. *А потым у яго жыцці з'явілася Іра. З'явілася нечакана-негадана, раптоўна, як бліскавіца, асляпіла, аглушыла, перавярнула ўсё.* Блакіт. *Нечакана-негадана звалілася на Кастусёвы плечы трагічная вестка.* С.Александровіч.

*НЕЧЫМ* ● **КРЫЦЬ НЕЧЫМ** *каму.* Гл. крыць.

*НЕШТА* ● **Н`ЕШТА Ў Л`ЕСЕ ЗД`ОХЛА (ЗД`ОХНЕ).** *Вык. Разм. Жарт.* Здарылася што-н. неспадзяванае. Выказванне здзіўлення чым-н. рэдкім, нечаканым. **Сін**.: воўк у лесе здох. *Але ты з якое прычыны ад мяне? Нешта ў лесе здохла.* Гартны. *Нешта такі ў лесе здохла: час ад часу пачаў заходзіць Глебка.* Чорны. *Маці глянула і аж пляснула рукамі: —А во-вой, нешта ў лесе здохла! Сам за кніжкі ўзяўся!* Грахоўскі.

*НЁС* ● **БОГ СЕМЯРЫМ НЁС ДЫ АДНАМУ ДАСТАЎСЯ.** Гл. бог.

*НІ* ● **НІ-Н`І (АНІ-Н`І).** *У знач. дзеясл. вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Абсалютна нічога не гаварыць, не расказваць каму-н. **Сін**.: ні гу-гу (у 1 знач.); ні гуку (у 1 знач.); ні мур-мур; ні слова (у 1 знач.). *—Толькі ты, дзеду, пакуль аб гэтым ні-ні! —прасіў Каспар.* Броўка. — *Ты, Міхась, толькі — маўчок пра Валю, — сказаў Тарас, прыклаўшы палец да губ, — і пра пісьмо, што яна мне напісала, — ні-ні... Добра?* Якімовіч. *Ніхто пра гэта не ведае. І ты, глядзі, пра гэта нікому ані-ні.* Крапіва.

*НІБЫ* ● **<НІБЫ> ГАРА З ПЛЕЧ <ЗВАЛІЛАСЯ>** *у каго, чыіх.* Гл. гара.

**ЗАСЛОНА СПАЛА З ВАЧЭЙ** *у каго, чыіх.* Гл. заслона.

**НІБЫ З ВЕЛІКОДНЫМ ЯЙКАМ.** Гл. яйкам.

**НІБЫ З ВЯДРА.** Гл. вядра.

**НІБЫ З ЛАНЦУГА САРВАЎСЯ.** Гл. сарваўся.

**НІБЫ З НЕБА ЗВАЛІЎСЯ.** Гл. зваліўся.

**НІБЫ З-ПАД ЗЯМЛІ ВЫРАС.** Гл. вырас.

**НІБЫ З РОГА ДАСТАТКУ.** Гл. рога.

**НІБЫ З РЭШАТА.** Гл. рэшата.

**НІБЫ КАМЕНЬ З ПЛЯЧЭЙ ЗВАЛІЎСЯ** *ў каго.* Гл. камень.
**НІБЫ КАМЕНЬ З СЭРЦА ЗВАЛІЎСЯ** *ў каго.* Гл. камень.
**НІБЫ НА <ГАРАЧЫМ> ВУГОЛЛІ.** Гл. вугоЛЛі.
**НІБЫ НАЗАЎТРА ТРЭБА.** Гл. трэба.
**НІБЫ НА ІГОЛКАХ.** Гл. іголках.
**НІБЫ НА КАРОВЕ СЯДЛО.** Гл. сядло.
**НІБЫ <НАНАВА> НА СВЕТ НАРАДЗІЎСЯ.** Гл. нарадзіўся.
**НІБЫ НА СПОВЕДЗІ.** Гл. споведзі.
**<НІБЫ> НЕ СВАІМІ НАГАМІ.** Гл. нагамі.
**НІБЫ ПАДМЯНІЛІ.** Гл. падмянілі.
**НІБЫ ПА ШЧУПАКОВЫМ ЗАГАДЗЕ.** Гл. загадзе.
**НІБЫ ПЕРАКАЦІ-ПОЛЕ.** Гл. перакаці.
**НІБЫ ПРАЗ СОН** Гл. сон.
**НІБЫ ПШАНІЦУ ПРАДАЎШЫ.** Гл. прадаўшы.
**НІБЫ ПЫЛЬНЫМ МЯШКОМ УДАРАНЫ. Гл.** ударанЫ.
**НІБЫ СНЕГ НА ГАЛАВУ.** Гл. снег.
**НІБЫ ТРЫ ГРОШЫ ДАЎ**. Гл. даў.
**НІБЫ Ў ВАДУ АПУШЧАНЫ.** Гл. апушчаны.
**НІБЫ Ў ВАДУ КАНУЎ.** Гл. кануў.
**НІБЫ ХТО ПАДМЯНІЎ** *каго.* Гл. хто.
**НІБЫ ЧОРТ ГАРОХ МАЛАЦІЎ** *на чым.* Гл. чорт.
**НІБЫ ЧОРТ ПАНЁС** *каго, што.* Гл. чорт.
**НІБЫ ЧОРТ УССЕЎ** *на каго.* Гл. чорт.

*НІГДЫ* ● **НА СВЯТ`ЫЯ Н`ІГДЫ.** *Акал. Разм.* Невядома калі, ніколі. **Сін**.: калі рак <на гары> свісне; на грэчаскія календы; на святое ніколі; пасля дожджыку ў чацвер. *—Кажуць, што во ў Вайтовічавай хаце маюцца школу адкрыць. —Будзе тое на святыя нігды.* Адамчык. *—Пацярпі, некалі сходзім. —На святыя нігды?..* Дамашэвіч. *—Часта ў вас бываюць вяселлі? —Раз у год на святыя нігды.* Асіпенка.

*НІДЗЕ* ● **НІДЗЕ НЕ ВАЛЯЕЦЦА.** Гл. валяецца.
**НІДЗЕ НЕ ДЗЕНЕШСЯ.** Гл. дзенешся.

*НІЖЭЙ* ● **НІЖ`ЭЙ <ЗА> КАЛ`ЕНА.** *Праст. Іран.* **1.** *Акал.* Да мінімальнага ўзроўню (апусціць, апусціцца, аказацца і пад.). *Мой першы прэм'ер-міністр пісаў, што ніколі не любіў мяне. Што ступень ягонае павагі ўжо даўно апусцілася ніжэй за калена.* Арлоў. *Еўрапейцам непрыемна сустракацца абы з кім, апускацца «ніжэй калена»* «ЛіМ».

**2.** *Азн.* Вельмі дрэнны, кепскага ўзроўню. Пра стан чаго-н. *У 41 працэнта айчынных прадпрыемстваў – паказчык ніжэй калена! Гэта той выпадак, калі такі паказчык не радуе.* «Звязда». *У выніку поспеху*

*намечанай акцыі палітычныя партыі павялічаць сваю вагу, а вось рэйтынг вярхоўнага кіраўніка можа аказацца «ніжэй калена».* «ЛіМ». *Кучма не вылазіць са скандальных гісторый, яго рэйтынг – ніжэй калена.* «Нар газ.»

**УДАР НІЖЭЙ ПОЯСА.** Гл. удар.

**ЦІШЭЙ ВАДЫ <І> НІЖЭЙ ТРАВЫ.** Гл. цішэй.

*НІЗКАЙ* ● **НІЗКАЙ ПРОБЫ.** Гл. пробы.

*НІЗКІ* ● **Н`ІЗКІ НА В`ОЧЫ.** *Вык. і азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Блізарукі. *Як пачалася вайна, Калмыка ў войска не ўзялі, бо ён быў нізкі на вочы.* Кухараў. *Князь некалькі разоў парываўся кінуць газету, але зноў дрыжачая рука падносіла ліст да носа нізкага на вочы князя.* Нёманскі.

*НІКОЛІ* ● **НА СВЯТ`ОЕ НІК`ОЛІ.** *Акал. Разм.* Невядома калі, на неакрэслены час; ніколі. **Сін**.: калі рак <на гары> свісне; на грэчаскія календы; на святыя нігды; пасля дожджыку ў чацвер. *[Якім:] Калі, калі ўжо надойдзе тая часінка, што нас злучыць навекі і мы ўжо ніколі не расстанемся? Калі? Калі?.. [Паўлінка:] Ха-ха-ха! На святое ніколі.* Купала. *Так яго, на яе думку, вінаватага, карала сваёй адмовай Мядзёлка, адкладваючы на потым тое, што стала адкладзеным на святое ніколі.* Лойка. *—Калі выйдзе твой зборнік? — На святое ніколі.* Цяжкі.

**РОТ <НІКОЛІ> НЕ ЗАКРЫВАЕЦЦА** *ў каго.* Гл. рот.

**ЯК НІК`ОЛІ**. *Акал. Функц. не зам.* **1.** Як ні ў які іншы час, ні пры якіх іншых умовах (адчуваць, старацца, рабіць і інш.). *Мой харошы, мой саколік, сэрца тваё чую. Абніму і як ніколі моцна пацалую.* А.Александровіч. *Цяпер нетрываласць гэта чулася як ніколі.* Мележ. *Духавы аркестр галіцкага клуба стараўся як ніколі.* Паўлаў.

**2.** *які.* Выключна, у найвышэйшай ступені. **Сін.**: на дзіва (у 1 знач.); на рэдкасць *які. З вас некаторыя мяне ўжо хавалі, «вечную памяць» спявалі. Дарма малебны служылі Хрысту, — я ж, ведаеце, расту, жыву на волі і здароў як ніколі.* Крапіва. *Гэты год для беларускіх хакеістаў стаў як ніколі трыумфальным.* «ЛіМ». *Сёння давядзецца павеславаць як ніколі: вецер яўна бярэ верх над рачною плынню.* Пашкоў.

*НІКУДЫ* ● **НІКУДЫ НЕ ВАРТЫ.** Гл. варты.

**НІКУДЫ НЕ ДЗЕНЕШСЯ.** Гл. дзенешся.

*НІТАЧЦЫ* ● **ХАДЗІЦЬ ПА НІТАЧЦЫ** *перад кім, у каго.* Гл. хадзіць.

*НІТКА* ● **ЯК (БЫ) Н`ІТКА ЗА ІГ`ОЛКАЙ.** *Акал. Разм.* Неадлучна (ісці, цягнуцца за кім-н.). *А што мне думаць! Далей ты за мяне будзеш думаць. А я... Куды ты — туды і я. Як нітка за іголкай.* Шамякін. —

*Тады няхай яна пабудзе ў нас пакуль. —Сама скажа. —Не сама, а ты павінен падказаць ёй. Я ж бачу, што яна за табой як нітка за іголкай.* Новікаў. *Я заспяшаўся, пацягнуўся бы нітка за [і]голкай услед за бацькам.* Сачанка.

*НІТКАЙ* ● **ЧЫРВ`ОНАЙ Н`ІТКАЙ** праходзіць (прайсці), пралягаць і пад. *Акал. Функц. не зам.* Вельмі выразна, ярка. *Тая ж раскіданасць і бессістэмнасць, што пануе ў прадмове, чырвонаю ніткаю праходзіць праз увесь зборнік, праз усе яго артыкулы.* Палуян. *Чырвонай ніткай прайшла праз даклад думка, што Мікола Гусоўскі — вялікі гуманіст-патрыёт, выдатны славянскі паэт-наватар.* «Весці». *Забастоўка пралягала чырвонаю ніткаю праз гарадское жыццё, клопаты, думкі, чаканні...* Гартны.

*НІТКАМІ* ● **ШЫТА БЕЛЫМІ НІТКАМІ.** Гл. шыта.

*НІТКІ* ● **ДА <АП`ОШНЯЙ> Н`ІТКІ.** *Акал. Разм.* **1**. Поўнасцю, начыста (абабраць, адбіраць, абчысціць і пад.). **Сін**.: як ліпку. *[Жандары] парасцягалі ўсё, да апошняй ніткі ўсё пазабіралі, кароў з хлявоў у маёнтак пазаганялі, народ пазбівалі.* Чорны. *Вядома, мусіць, можна б сёе-тое знайсці і ў гэтай бедалагі, але не да ніткі ж абіраць яе, і без таго ўжо абрабаваную немцамі.* Быкаў.

**2**. Наскрозь, зусім (прамокнуць, вымакнуць, мокры і пад.). **Сін**.: да касцей; да мозгу касцей (у 2 знач.); па <самыя> вушы (у 1 знач.). *Хлопцы даўно ўжо прамоклі да апошняй ніткі, здубянелі ад холаду, але, здавалася, нічога гэтага не адчувалі.* Маўр. *Прамоклыя да ніткі, [партызаны] дабеглі ўрэшце да купы вялізных елак, кінуліся пад іх.* Лынькоў. *Віця ўвайшоў у хату мокры да апошняй ніткі.* Чарнышэвіч.

**СУХОЙ НІТКІ НЯМА** *на кім.* Гл. няма.

*НІТКУ* ● **ВЫЦЯГВАЦЦА Ў НІТКУ.** Гл. выцягвацца.

**НА ЖЫВ`УЮ Н`ІТКУ.** *Акал. Разм.* **1**. Толькі збольшага, злёгку, каб толькі трымалася (сшываць, счапляць і пад.). *Крэмавая кашулька вылазіла і знізу, давялося шво падабраць і счапіць на жывую нітку.* Карпюк. *Вымераў ён мяне ўдоўж і ўпоперак, сказаў, каб прыходзіў праз дзень на прымерку. Я зайшоў праз два дні. Калашыны былі сашчэплены на жывую нітку, нібы мяшкі-шасціпудовікі.* Місько.

**2**. Нетрывала, нядбайна, спяшаючыся, як папала (рабіць што-н.). *На жывую нітку пастаўлены мосцік, на лёгкіх пантонах.* Лынькоў. *Пагарэльцы, якія вылазілі з зямлянак, ставілі хаты на жывую нітку — абы хутчэй улезці пад дах.* Навуменка. *Пакуль што сяк-так, на жывую нітку адрамантавалі толькі воласць, і сёння мы зноў селі за парты.* Сяркоў.

*НІТЦЫ* ● **З М`ІРУ ПА Н`ІТЦЫ** збіраць, сабраць і пад. *Акал. Разм.* Ад усіх патроху. *Так Валодзька і збіраў памочнікаў, свой «мазгавы*

*трэст», – як гавораць, з міру па нітцы.* Герчык. *Гойдаючы малое, яна заўважала рукі, што працягвалі ёй белую хусціну: «Калі ласка». Нехта прынёс пялёнку, нехта – кавалак марлі. З міру па нітцы...* «Настаўн. газ.»

*НІЦЬ* ● **АРЫ`ЯДНІНА Н`ІЦЬ.** *Мн. не ўжыв. Часцей дзейн. і дап. Кніжн.* Сродак выйсці з цяжкага становішча. *Ада, Арыяда, Арыядна! Мне б цябе і любіць, і сніць, толькі дзе, скажы, Арыядна, арыядніна твая ніць? Я брыду лабірынтам жыццёвым. Колькі цёмных у ім хадоў!* Вярцінскі. *Знік Гольбах... Чаму знік? Куды? Во загадка, якую мы павінны разгадаць. І гэта можа даць нам арыядніну ніць, якая паможа выйсці з лабірынта. Не Тэсею. Нам!* Шамякін.

**ПУЦЯВ`ОДНАЯ Н`ІЦЬ** *<для каго, для чаго, у чым>. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Тое, чым кіруюцца ў чым-н.; вызначальны пачатак, аснова чаго-н. *Вельмі часта чытаем мы зараз паэмы жанрава невыразныя, калейдаскапічныя, у якіх цяжка знайсці якую-небудзь пуцяводную ніць.* «Маладосць». *Пуцяводнай ніццю ў практычных справах на міжнароднай арэне былі мір, нястомная барацьба за спыненне гонкі ўзбраенняў...* «Звязда».

*НІЧОГА* ● **БЕЗ НІЧ`ОГА НІ`ЯКАГА.** *Акал. Разм.* 1. Безагаворачна, без адгаворак (рабіць што-н.). **Сін**.: за будзь здароў (у 2 знач.). *І раз ужо сказаў гаспадар [працаваць], думаць няма чаго, а без нічога ніякага грукаць малаткамі па бляхе — і ўсё.* Мурашка.

**2**. Папросту і не адчуваючы незвычайнасці чаго-н. (гаварыць, рабіць што-н.). *У некага сапраўды гэта проста, ведала [Валя] пра такое: пазнаёміліся хлопец і дзяўчына, сустрэліся раз-другі ды і вядуць да сябе ў госці адно аднаго. Без нічога ніякага, па-сяброўску.* Ярашэвіч.

**3**. Без усякай прычыны. **Сін**.: без дай рады; без усякага-якага; за будзь здароў (у 1 знач.); за пусты мех <а ў мяху смех>; за так (у 2 знач.); з ласкі на пацеху; не знай не ведай; ні з таго ні з сяго; ні з чаго ні з якага; ні села ні пала; так сабе (у 1 знач.).

**З'ЕХАЦЬ НА НЯМА НІЧОГА.** Гл. з'ехаць.

**НІЧОГА НЕ ЗРОБІШ.** Гл. зробіш.

**НІЧОГА НЕ ПАПІШАШ.** Гл. папішаш.

**НІЧОГА НЕ ПАРАДЗШІ.** Гл. парадзіш.

**НІЧОГА НЕ СКАЖАШ.** Гл. скажаш.

**НІЧ`ОГА ПАД`ОБНАГА.** *Выкл. Разм.* Зусім не. Выраз рашучага адмаўлення, нязгоды з чым-н. **Сін**.: знайшоў дурня; няма дурных (у 1 знач.); скулу ў бок *каму*; трымай кішэнь шырэй; чорта з два (у 1 знач.); чорта лысага (у 1 знач.); як бы не так. *Або малако як*

*прадаюць... Скажам, жыве чалавек на хутары, дык, вы думаеце, кожны раз ён вязе, ды мераюць, ды з рук у рукі? Нічога падобнага.* Крапіва.

**НІЧОГА САБЕ.** Гл. нішто.

**ЯК НІЧОГА <І> НЕ БЫЛО.** Гл. было.

*НІШТО* ● **ЗВОДЗІЦЦА НА НІШТО.** Гл. зводзіцца.

**ЗВОДЗІЦЬ НА НІШТО** *што.* Гл. зводзіць.

**НІШТ`О (НІЧ`ОГА) С`АБЕ.** *Разм.* **1.** *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. і абстр. прадмета. Неблагі, някепскі, даволі добры. *Цяпер ужо Анюта замужам. І чалавек, здаецца, нішто сабе, і дзеці харошыя.* Брыль. *Там у яго жыў сваяк, нічога сабе чалавек.* Быкаў. *Ат, нішто сабе жарабя, дагледжанае, дык і выгляд мае.* Крапіва. *А станцыя – нішто сабе, дзейная, грузаў шмат перакідае, працы хапае.* Шынклер. *[Альжбета:] Якія ж сёлета ўраджаі ў пана Адольфа? – [Адольф:] А нішто сабе.* Купала.

**2.** *Акал.* Някепска, добра. *Падышлі бліжэй да вады, прымайстраваліся. Было б нішто сабе, але канец хістаўся ад рухаў Віктара.* Маўр. *– І чытаць і пісаць можа васпан? – Чытаць нічога сабе, а пісаць – не так-та. Нідзе не вучыўся. Матка вучыла па кантычцы.* Баранавых. *Дзед нішто сабе жыве.* Астрэйка.

**3.** *Выкл.* Выказванне нездавальнення чым-н., а таксама здавальнення, здзіўлення і інш. *«Дарога! » – нявесела падумаў ён [Іван]. Нішто сабе… дарога – цераз горны масіў Альпаў, праз цясніны і рэкі, а галоўнае – праз густа населеныя даліны і ажыўленыя аўтастрады…* Быкаў. *Вось парадачкі пайшлі! Выпіў чалавек ад радасці сто грамаў, дык яго адразу за каршэнь і ў міліцыю! Нішто сабе – жыццё!* Матукоўскі. *[Маўра:] Во… во… а то пачалі строіць хіханькі да хаханькі… Нішто сабе… жарты.* Кобец. *У апошнім капкане Лаўрэн таксама знайшоў тхара. «Нічога сабе…» – падумаў Лаўрэн.* Самуйлёнак. *Я перакладчыца. Гаспадзін штандартэнфюрер Отта Кройц, па-нашаму, калі не памыляюся, палкоўнік Кройц, жадае з вамі гаварыць. «Нішто сабе! – пранеслася ў галаве Вацлава. – Нават палкоўнік…»* «Полымя».

**СЫХОДЗІЦЬ НА НІШТО.** Гл. сыходзіць.

*НІЯКАГА* ● **БЕЗ НІЧОГА НІЯКАГА.** Гл. нічога.

*НІЯКАЕ* ● **НІЯКАЕ ЛІХА НЕ БЯРЭ** *каго.* Гл ліха.

*НІЯКАЙ* ● **НЕ ВЫТРЫМЛІВАЕ НІЯКАЙ КРЫТЫКІ.** Гл. вытрымлівае.

*НІЯКАЯ* ● **НІЯКАЯ ТРАСЦА НЕ БЯРЭ** *каго.* Гл. трасца.

**НІЯКАЯ ХАЛЕРА НЕ БЯРЭ** *каго.* Гл. халера.

*НІЯКІ* ● **НІЯКІ ЧОРТ.** Гл. чорт.

**НІЯКІ ЧОРТ НЕ БЯРЭ** *каго.* Гл. чорт.

*НІЯКІМІ* ● **НІЯКІМІ СІЛАМІ.** Гл. сіламі.
*НІЯКІЯ* ● **НІЯКІЯ СІЛЫ.** Гл. сілы.
*НО* ● **НІ ТПРУ НІ НО.** Гл. тпру.
*НОВАЕ* ● **НОВАЕ СЛОВА** *ў чым.* Гл. слова.

**УЛІВАЦЬ У СТАРЫЯ МЯХІ НОВАЕ ВІНО.** Гл. уліваць.

*НОВУЮ* ● **УПІСАЦЬ НОВУЮ СТАРОНКУ** *ў што.* Гл. упісаць.
*НОВЫМІ* ● **ГЛЯДЗЕЦЬ НОВЫМІ ВАЧАМІ** *на каго, на што.* Гл. глядзець.
*НОВЫХ* ● **ДА НОВЫХ ВЕНІКАЎ.** Гл. венікаў.
*НОВЫЯ* ● **ЯК БАРАН НА НОВЫЯ ВАРОТЫ.** Гл. баран.
*НОГ* ● **АБТРЭСЦІ ПРАХ** *чый, каго, чаго* **З НОГ <СВАІХ>.** Гл. абтрэсці.

**БЕЗ З`АДНІХ Н`ОГ** valяцца... 

**БЕЗ З`АДНІХ Н`ОГ** <u>валяцца, ляжаць</u> і пад. *Акал. Праст. Неадабр.* У стане поўнай знямогі, нерухомасці (ад стомленасці, ап'янення і інш.). *— А што яму цяпер рабіць, — адказвае Шарэйка. —Ляжыць недзе без задніх ног, адпачывае. Натрудзіў вочы за ноч, напалохаўся.* Брыль. *Без задніх ног чалавек валяўся, як бервяно. Смярдзючай вадою з пажарнай бочкі адлілі.* Мурашка.

**БЕЗ З`АДНІХ Н`ОГ** <u>спаць.</u> *Акал. Разм.* Вельмі моцна. **Сін**.: мёртвым сном; сном праведніка; хоць зубы выберы; як забіты; як пшаніцу прадаўшы. **Ант**.: на адно вока. *—Ніхто не прыйдзе! — упэўнена сказаў Тэафіл, раздзімаючы мяхі. —Спяць без задніх ног!* Самуйлёнак. *І зноў не то ява, не то сон-трызненне: шыбае ў нос пах свежага подавага хлеба — толькі што з печы. Быццам дома ён, на канікулах, спіць без задніх ног.* Місько.

**ВАЛІЦЦА З НОГ** *<ад чаго>.* Гл. валіцца.

**ВАЛІЦЬ З НОГ** *каго.* Гл. валіць.

**ВЫБІВАЦЬ ГЛЕБУ З-ПАД НОГ** *каго, чыіх, у каго.* Гл. выбіваць.

**ЗАСТАВАЦЦА БЕЗ НОГ.** Гл. заставацца.

**ЗБІВАЦЦА З НОГ.** Гл. збівацца.

**З ГАЛАВЫ ДА НОГ.** Гл. галавы.

**З НОГ ДА ГАЛАВЫ.** Гл. галавы.

**З УС`ІХ Н`ОГ** <u>бегчы, кідацца, пускацца</u> і пад. *Акал. Разм.* Вельмі хутка, імкліва. **Сін**.: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы*; без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.), на ўсе ногі; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант**.: як чарапаха. *Збоку ад нейкага*

*белага доміка з усіх ног беглі да завода два хлопчыкі.* Быкаў. *Чубар кінуўся з усіх ног ратавацца ў сярэдзіну лесу.* Чыгрынаў. *Міша з Поляй з усіх ног пусціліся па абрывістай сцежцы, што вяла ў абход да таго месца.* Арочка. *Барадаты звер ратаваў сваю скуру. Уцякаў з усіх ног, не на жарты напалохаўшы Мішку...* Лынькоў.

**ЗЯМЛЯ ПАПЛЫЛА З-ПАД НОГ** *у каго.* Гл. зямля.

**НЕ ЧУЦЬ НІ РУК НІ НОГ.** Гл. чуць.

**НЕ ЧУЦЬ НОГ.** Гл. чуць.

**НЕ ЧУЦЬ НОГ ПАД САБОЙ.** Гл. чуць.

**СКІДАЦЬ З НОГ** *каго.* Гл. скідаць.

**СТАВІЦЦА З НОГ НА ГАЛАВУ.** Гл. ставіцца.

**СТАВІЦЬ З НОГ НА ГАЛАВУ** *што.* Гл. ставіць.

*НОГАЦЬ* ● **ПАД Н`ОГАЦЬ (ПАД К`ІПЕЦЬ)** *каго. У знач. вык. Праст.* Знішчыць, ліквідаваць, забіць. **Сін**.: к ногцю *каго. —Дрэнна тое, што ў нашым далёкім ад камунікацыі і гарадоў Краснаполлі болей як дзе ўсялякай свалаты... —Пад ногаць яе, а мы цырымонімся!* Кавалёў. *[Хвядос:] Дык і я магу пад кіпець там якога Чэмберлена. Перад гэтым толькі выпіць дзеля смеласці нядрэнна.* Крапіва. *—Пад кіпець бунтаўшчыкоў! — апусціў вялікі палец Лядзяш.* Далідовіч.

*НОГІ* ● <u>*Ведаць, высвятляць*</u> і пад. **АДК`УЛЬ Н`ОГІ РАСТ`УЦЬ**. *У знач. дадан. ск. Праст.* (Ведаць, высвятляць і пад.) у чым сутнасць справы, з-за чаго пачалося што-н. *Сяргею карцела заявіць, што гэта агідна: пераносіць сямейныя звадкі на службовыя справы, не ведаючы, адкуль растуць ногі, – са слоў аднаго чалавека, хоць бы і жонкі.* Кантылёў. *Цяпер уцяміў, адкуль ногі растуць? Ты не зразумеў намёку генерала, перадаў матэрыял у следства, пляменніку ўляпілі чатыры гады. Інспектарская праверка – звядзенне рахункаў з табой...*Праўдзін. *Пачынаем высвятляць, адкуль растуць ногі. Аказваецца, міністэрства юстыцыі прааналізавала нашу публікацыю і прыйшло да высновы...* «Свабода». *Калі кампрамісу не знаходзілі, тады нам даводзілася «працаваць» з аўтарам, які не павінен быў нават ведаць, адкуль ногі растуць, – згадваць Галоўліт нельга было ні пры якой умове.* Бутэвіч.

**БІЦЬ НОГІ.** Гл. біць.

**<БРАЦЬ> НОГІ ЗА ПОЯС.** Гл. браць.

**<БРАЦЬ> НОГІ НА ПЛЕЧЫ.** Гл. браць.

**<БРАЦЬ> НОГІ Ў РУКІ І.** Гл. браць.

**ВЫНОСІЦЬ НОГІ** *<адкуль, ад каго>*. Гл. выносіць.

**ВЫПРОСТВАЦЬ НОГІ.** Гл. выпростваць.

**ВЫЦІРАЦЬ НОГІ** *аб каго.* Гл. выціраць.

**ВЫЦЯГНУЦЬ НОГІ.** Гл. выцягнуць.

**ДАВАЙ БОГ НОГІ.** Гл. бог.

**ДАВАЦЬ У НОГІ.** Гл. даваць.

**ДЗ`Е ЎЗЯЛ`ІСЯ І Н`ОГІ** *ў каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. знайшоў у сабе сілы і спрыту, каб лёгка і хутка пабегчы. *Потым гоп яна [Баба] з калёс, села ля дарогі, а каня як чорт панёс, — дзе ўзяліся й ногі.* Крапіва. *Ён стрэліў, а сам на дрэва. Глядзіць — тая свіння як пайшла ў лес, дзе ўзяліся ў яе ногі.* Янкоўскі.

**ЗАДЗІРАЦЬ НОГІ.** Гл. задзіраць.

**ЗРАБІЦЬ НОГІ.** Гл. зрабіць.

**КЛАНЯЦЦА Ў НОГІ** *каму.* Гл. кланяцца.

*Ісці, пайсці* і пад. **КУД`Ы Н`ОГІ ВЯД`УЦЬ (ПАВЯД`УЦЬ).** *Акал. Разм.* У няпэўным напрамку, не выбіраючы дарогі, абы-куды, невядома куды. **Сін**.: за вачыма *бегчы*; куды вочы вядуць; куды вочы глядзяць (у 1 знач.); куды ногі нясуць (у 1 знач.); у <белы> свет (у 1 знач.); у <белы> свет як у капейку (у 1 знач.); у свет вочы. *Пакутна думаючы над усім гэтым, Сяргей ішоў куды вялі ногі.* Радкевіч. *Заплюшчыць бы вочы — і ісці куды ногі павядуць.* «Полымя».

*Ісці, пайсці* і пад. **КУД`Ы Н`ОГІ НЯС`УЦЬ (ПАНЯС`УЦЬ).** *Акал. Разм.* **1**. У няпэўным напрамку, не выбіраючы дарогі, абы-куды, невядома куды. **Сін**.: за вачыма *бегчы*; куды вочы вядуць; куды вочы глядзяць (у 1 знач.); куды ногі вядуць; у <белы> свет (у 1 знач.); у <белы> свет як у капейку (у 1 знач.); у свет вочы. *Можа, і добра, што здолеў у час [Уладак] сысці, панесці свае крыўды, помсту з сабою. Але пакінуў іх абаіх разам, сыходзіў далей ад іх, шчаслівых, куды неслі ногі, і не ведаў, куды ісці, што рабіць.* Далідовіч.

**2**. Адпаведна жаданням, куды захочацца, куды ўздумаецца. **Сін**.: куды вочы глядзяць (у 2 знач.); куды вочы нясуць; у <белы> свет (у 2 знач.). *[Старац:] Скінь пыху з сэрца, набярыся адвагі, забірай гэтых з сабой і ідзі, ідзі куды ногі панясуць, куды вочы твае глядзець будуць!* Купала.

**ЛЕДЗЬ НОГІ ЦЯГАЦЬ.** Гл. цягаць.

**ЛІЗАЦЬ НОГІ** *каму.* Гл. лізаць.

**НАБІВАЦЬ НОГІ.** Гл. набіваць.

**НА ЎС`Е Н`ОГІ** *бегчы, кідацца, імчацца* і пад. *Акал. Разм.* Вельмі хутка, імкліва. **Сін**.: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы,* без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у

2 знач.); на ўсіх парах; на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант**.: як чарапаха. *Я адразу ж шыбануў у іх [гітлераўцаў] гранату-«лімонку», і яны заляглі, а мы на ўсе ногі кінуліся да машыны.* Сабаленка. *Паскідалі хрушчы цыратовыя плашчы, драпанулі нябогі на ўвесь дух, на ўсе ногі.* Шушкевіч.

**НОГІ АДБІЦЬ.** Гл. адбіць.

**Н`ОГІ ВЯД`УЦЬ (ВЯЛ`І)** *каго. Незак. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. ідзе, рухаецца куды-н. **Сін.:** ногі нясуць *каго. Цяпер ногі вялі да Арсеня Лісоўскага, у яго гатэль-інтэрнат: мо там можна перабыць некалькі дзён?* Дамашэвіч. *За справамі не выпадала схадзіць раней. А цяпер ногі самі вялі яго вузкай сцежкай.* Рублеўскі. **НОГІ ПРЫВЯДУЦЬ (ПРЫВЯЛІ)** *каго. Зак. Сёння нядзеля, ён ішоў у бібліятэку, але ногі неяк самі сабой прывялі яго сюды.* «Полымя».

**Н`ОГІ К`ОРМЯЦЬ** *каго. У безас. ужыв. Разм.* Чыя-н. плённая праца патрабуе бегатні, амаль сталага знаходжання ў руху. *Ад спёкі, чаду і знямогі не час усмешлівы пагляд: – Каго з маленства кормяць ногі, таму і сам дракон не брат…* Вялюгін. *Я за дзень так наразміналася, бегаючы па горадзе за рознымі інтэрв'ю ды інфармацыямі, што пад вечар ногі гудуць, быццам слупы ў марозны дзень. Журналіста, сама ведаеш, ногі кормяць.* Казлоў. *Каб ты ведаў, той чалавек, якога я шукаў на вуліцы Русіянава, прызнаўся ў трох забойствах. Два – у нас, адно – у Расіі. Так што ногі нас кормяць, ногі…*Праўдзін.

**НОГІ МЫЦЬ** *каму, чые* **І ТУЮ ВАДУ ПІЦЬ.** Гл. мыць.

**Н`ОГІ НЕ Н`ОСЯЦЬ (НЕ НЯС`УЦЬ)** *каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. не можа хадзіць, рухацца ад стомленасці, слабасці, хваробы і пад. **Сін**.: ногі не носяць *каго. Учора прыйшла да сваёй Ганны, а ў мяне галава баліць, баліць… Ногі не носяць. Кажу, Ганна, буду паміраць, усім надаела.* Марчук. *Не магу. Ногі мяне.. не нясуць…* Чарнышэвіч.

**Н`ОГІ НЕ ТРЫМ`АЮЦЬ** *каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. не можа ісці, рухацца ад стомленасці, слабасці, хваробы і пад. **Сін.**: ногі не носяць *каго. Мужык, адвядзі мяне дадому. Лугавая, дом пяць. Адвядзі, магарыч будзе. А то мяне чамусьці ногі не трымаюць.* Кадзетава. *Раджа, і праўда, не трымалі ногі. Перад сталом Крафта стаяла мяккае крэсла і звычайнае, але містэр прысесці не запрашаў.* Місько.

<u>*Пакуль*</u> **Н`ОГІ Н`ОСЯЦЬ.** *У безас. ужыв. Разм.* (Пакуль) ёсць сілы, магчымасць ісці, рухацца і пад. *Каля жандармерыі людзі мне сказалі: —Уцякай лепш, баба, пакуль ногі носяць!..* Таўлай.

**Н`ОГІ НЯС`УЦЬ (Н`ЕСЛІ)** *каго. Незак. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. ідзе, рухаецца куды-н. **Сін**.: ногі вядуць *каго. Ногі нясуць мяне ў ельнік, дзе калісьці была ў нас з Нінай калекцыя гнёздаў.* Карпюк. *Лёгка нясуць ногі дзядзьку Якуба. Санька нават подбегам не спраўляецца.* Якімовіч. *Ногі неслі яго [Андрэя] усё бліжэй да будынка земскай управы.* Колас. *І Змушку, і Зайчанку было пад шэсцьдзесят, таму ногі неслі іх не надта хутка.* Кусянкоў. **НОГІ ЗАНЕСЛІ** *каго. Зак. І невядома, як занеслі Барасневіча ногі на цвінтар царквы, што амаль над самай ракою.* Караткевіч.

**ПАДТОПТВАЦЬ ПАД НОГІ.** Гл. падтоптваць.

**ПАДЫМАЦЦА НА НОГІ.** Гл. падымацца.

**ПАДЫМАЦЬ НА НОГІ.** Гл. падымаць.

**ПАКАЗАЦЬ АДКУЛЬ НОГІ РАСТУЦЬ** *каму.* Гл. паказаць.

**СТАВІЦЬ З ГАЛАВЫ НА НОГІ** *што.* Гл.ставіць.

**СТАВІЦЬ НА НОГІ.** Гл. ставіць.

**СТАНАВІЦЦА НА НОГІ.** Гл. станавіцца.

**ТАПТАЦЬ ПАД НОГІ** *што.* Гл. таптаць.

**УСТАВАЦЬ НА НОГІ.** Гл. уставаць.

**ЦАЛАВАЦЬ РУКІ І НОГІ** *каму.* Гл. цалаваць.

*НОГЦЮ* ● **К Н`ОГЦЮ** *каго. У знач. вык. Праст.* Знішчыць, ліквідаваць, забіць. **Сін**.: пад ногаць *каго. —К ногцю б такую погань! — пакрыў апошнія словы чыйсці густы бас.* Машара. *Кожны стараўся павіншаваць ці хоць пахваліць, а то і даць параду: «Ну, пашэнціла чалавеку! Памазок там навядзе парадак! Слухай, ты там адразу – дэмакратыю к ногцю! Калі што – мы на падмогу...»* Быкаў.

*НОЖ* ● **ВАСТРЫЦЬ НОЖ** *на каго.* Гл. вастрыць.

**Н`ОЖ В`ОСТРЫ** *каму, для каго. Мн. не ўжыв. Вык. і азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Што-н. непрыемнае, нясцерпнае, пакутлівае. **Сін**.: як нажом па сэрцы *каму*; <як> нож у сэрца *каму, для каго. Здаецца, зямля дрыжыць і ходырам захадзіла кругом — закружылася, замітусілася ў вачах. Думка — востры нож — не дае спачыну: —Гэта ж я чалавека загубіў!* Каваль. *Дэмакратыя для нашага дырэктара — нож востры.* «Звязда».

**Н`ОЖ У СП`ІНУ** *каму. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Подлы ўчынак, здрадніцкія паводзіны ў адносінах да каго-н. **Сін**.: удар у спіну *каму. А ліха іх знае, гэтых «маршалкаў», — што яны сабе мяркуюць. Можа, рыхтуюць нам нож у спіну?* Бядуля. *— Пасля мы ўсе разумныя. —Вот іменна — пасля. І разумныя, і строгія. А напачатку такія добранькія. Вушы развесілі, а ён — нож у спіну. — Платонаў і тады гаварыў: ёсць падазрэнне. Але ж доказаў не было.* Быкаў.

**ПАД Н`ОЖ** <u>класціся (легчы), ісці</u> і пад. *Акал. Разм.* На хірургічную аперацыю. *[Насця:] Бывае ж так, што і блізкага чалавека кладуць пад нож. Ды яшчэ просяць дактароў, каб хутчэй рэзалі.* Крапіва. *Цяпер асколкі не толькі з лёгкага вымаюць, але нават з сэрца. Толькі навошта табе без патрэбы лезці пад нож?* Карпюк. *—Усё хацелася нажыць дабра, а потым дзяцей завесці. Нажыўся... прыйшоў час пад нож ісці... —Не думайце вы пра горшае...* Марчук. *[Сокалаў:] Прыехаў працаваць і ніводнага дня не працаваў. Амаль са станцыі ў вашу шаноўную ўстанову і — пад нож.* Палескі.

**ПАД Н`ОЖ** <u>падлягаць, ісці (пайсці)</u> і пад. *Акал. Разм.* На знішчэнне. *Нічога, грамадзянін, з вашым бычком не выйдзе, не падлягае ён пад нож па закону, бо племянны.* Лынькоў. *Усё, што было хоць крыху падкормленае, падгладжанае, ішло пад нож...* Лобан. *Пайшоў пад нож вынік велізарнай працы — пераклад «Пана Тадэвуша».* Кісялёў.

**ПУСКАЦЬ ПАД НОЖ** *каго.* Гл. пускаць.

**УСАДЗІЦЬ НОЖ У СПІНУ** *каму, чаго.* Гл. усадзіць.

**<ЯК, ШТО> Н`ОЖ У С`ЭРЦА** *каму, для каго. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Што-н. непрыемнае, нясцерпнае, такое, што выклікае душэўны боль. **Сін**.: нож востры *каму, для каго*; як нажом па сэрцы *каму. Адной Тахвілі.. шваграва багацце было як у сэрца нож.* Калюга. *Дачуўся пан, што Ян хоча забраць прыгажуню ў сваю хату. Чутка была яму як нож у сэрца.* Гамолка. *Для Надзі сустрэча з ім [Бошкіным] — гэта нож у сэрца.* Мік. Ткачоў. *«Рыгор, не трусь! Мы ў крыўду не дадзім!» — падколваў хто з трактарыстаў. А для Рыгора гэтаа быў нож у сэрца.* Місько. *[Галавач:] Думаеш, мне лёгка сказаць, што так? Расчаравацца ў чалавеку — нож у сэрца.* Матукоўскі.

*НОЖКА* ● **КАЗ`ІНАЯ Н`ОЖКА.** *Адз. і мн. Часцей дап. Разм.* Самаробная папяроса, скручаная конусам і перагнутая напалам. **Сін**.: сабачая ножка. *Не той стаў Мароз, не той, што быў у кабінеце. Дзе ж яго люлечка? Нешта не відаць, каб ён курыў яе калі, часцей казіную ножку ссе.* Лобан. *Мужыкі курылі — хто люлькі, хто казіныя ножкі, гаманілі паціху аб тым аб сім.* Якімовіч.

**САБ`АЧАЯ Н`ОЖКА**. *Адз. і мн. Часцей дап. Разм.* Самаробная папяроса, скручаная конусам і перагнутая напалам. **Сін.**: казіная ножка. *Скурыўшы дзве «сабачых ножкі», Васіль прылёг на трошкі.* Крапіва. *Селі. Кандратовіч скруціў вялікую «сабачую ножку», пусціў хмару едкага дыму.* Караткевіч. *Убачылі паперу, як нешта асаблівае, скруцілі па дзве сабачыя ножкі, і толькі.* Галубок.

*НОЖКАХ* ● <u>*Хата, хатка*</u> **НА КУР`ЫНЫХ Н`ОЖКАХ (НА КУР`ЫНАЙ**

**Н`ОЖЦЫ).** *Азн. і вык. Разм.* Невялікая і звычайна старая. —*Улічы, у мяне толькі кухня не занятая і во гэтая халупка, — паказвае на хату на курыных ножках.* Місько. *Адкуль у лесе гэтая хатка на курыных ножках?* Аношкін. *Прымы яго [Алеся] — нясытныя: загончык поля і хата на курынай ножцы.* Брыль. *Затое ў Янкі Скрыбы клопаты зусім не такія. У яго хата на курынай ножцы, кашух-хлевушок, а ў ім карова, што тая каза.* Дамашэвіч.

*НОЖКІ* ● **РОЖКІ ДЫ НОЖКІ.** Гл. рожкі.

*НОЖКУ* ● **ПАДСТАЎЛЯЦЬ НОЖКУ** *каму.* Гл. падстаўляць.

*НОЖЦЫ* ● **НА КУРЫНАЙ НОЖЦЫ.** Гл. ножках.

*НОРАЎ* ● *Прайсціся, рабіць, казаць* і пад. **ПАД Н`ОРАЎ.** *Акал. Разм.* Даспадобы (прыйсціся і пад. каму). **Сін**.: *прыйсціся* да густу; *прыйсціся* да душы; *прыйсціся* да смаку; *прыйсціся* па густу; *прыйсціся* пад густ; *прыйсціся* па душы; *прыйсціся* па нутры; *прыйсціся* па сэрцы; у масць. *Жонка баялася аказацца да яго [Соміка]. Калі казала яму не пад нораў, ён узгарваўся, як порах, і кідаўся да яе з кулакамі.* Крапіва. *Што ні дзень, то едуць, пруць да фронту цягнікі, а пусціць туды іх дзеду не пад нораў, не з рукі.* Астрэйка.

*НОС* ● **АДВАРОЧВАЦЬ НОС** <*ад каго, ад чаго*>. Гл. адварочваць.

**АЖ Н`ОС ГН`ЕЦЦА.** *Акал. Разм.* З вялікім апетытам і прагна (есці). **Сін**.: аж за вушамі трашчыць; за абедзве шчакі; за маліну (у 1 знач.); на поўную губу (у 2 знач.); на поўны рот; на ўвесь рот (у 1 знач.). *[Тадора:] І палавіны не з'еў [парсюк]... Гэта сала будзе з гэтага догляду... А нябось, як на скаварадзе паставяць, дык прэш аж нос гнецца.* Крапіва. *Ясі аж нос гнецца, бо не еў цэлы дзень і не помніш — вячэраў учора ці не...* Караткевіч.

**БІЦЬ У НОС.** Гл. біць.

**ВАДЗІЦЬ ЗА НОС** *каго.* Гл. вадзіць.

**ВЕШАЦЬ НОС.** Гл. вешаць.

**ВЕШАЦЬ НОС НА КВІНТУ.** Гл. вешаць.

**ВЫСОЎВАЦЬ НОС** *куды, адкуль.* Гл. высоўваць.

**ВЯРНУЦЬ НОС.** Гл. вярнуць.

**ДАВАЦЬ НОС(-А)** *каму.* Гл. даваць.

**ДАВАЦЬ У НОС.** Гл. даваць.

**ДРАЦЬ НОС.** Гл. драць.

**ДУЛЮ ПАД НОС** *каму.* Гл. дулю.

**ЗАДРАЦЬ НОС.** Гл. задраць.

**ЗАКАПЫЛІЦЬ НОС.** Гл. закапыліць.

**З ВЕРАБ'`ЁЎ (ВЕРАБ'`ІНЫ) Н`ОС.** *Разм.* **1**. *чаго. Акал. ці ў безас. ужыв.* Вельмі мала. **Сін**.: з жабіны прыгаршчы *чаго*; з камароў нос (у 1 знач.); з макава зерне; кропля ў моры <*чаго*>; курам на смех (у 3

знач.); на жабін скок (у 2 знач.); на заячы скок; на капейку; на макава зерне; на пальцах можна пералічыць *каго, што;* на панюх табакі (у 1 знач.); на шэлег (у 1 знач.); не поле насеяна *каго*; раз-два і ўсё *каго, чаго*; як кату; кот наплакаў *каго, чаго*; як старой бабе сесці *чаго. Часу засталося з вераб'іны нос — дзевяць дзён.* Корбан.

**2**. *Азн. і вык.* Невялікі па колькасці, памерах і пад. **Сін**.: з камароў нос (у 2 знач.). *Шукаць новага языка небяспечна — немцы стрэлы пачулі. А тут і ноч летняя, — з вераб'ёў нос. Дзень пачынае.* Якімовіч.

**З КАМАР`ОЎ (КАМАР`ЫНЫ) НОС.** *Разм.* **1**. У *безас. ужыв.* Вельмі мала. **Сін**.: з вераб'ёў нос (у 1 знач.); з жабіны прыгаршчы *чаго*; з макава зерне; кропля ў моры <*чаго*>; курам на смех (у 3 знач.); на жабін скок (у 2 знач.); на заячы скок; на капейку; на макава зерне; на пальцах можна пералічыць *каго, што*; на панюх табакі (у 1 знач.); на шэлег (у 1 знач.); не поле насеяна *каго*; раз-два і ўсё *каго, чаго*; як кату; <як> кот наплакаў *каго, чаго*; як старой бабе сесці *чаго. Пакуль [маці] выгадавала іх [дзяцей], падняла на ногі, цяжка было. Зямлі з камароў нос. Нават каровы не мелі.* Чарнышэвіч. *Калі ж не пашкадуеш часу і разбярэш, усю гэту груваcткую канструкцыю, дык аказваецца, што каштоўнага зместу там з камарыны нос.* Крапіва. *—Доўга я спаў? —Ды ў цябе з камарыны нос і сну таго было, — сказаў Марат.* Шушкевіч.

**2**. *Вык. і азн.* Невялікі па колькасці, памерах і пад. **Сін**.: з вераб'ёў нос (у 2 знач.). *Слова «камбінат» у дачыненні «Зары» гучыць трохі іранічна, уся вытворчая пляцоўка — з камароў нос.* «ЛіМ». *Дома ўвесь вечар Блізнюк быў сам не свой. Нечым быў дзень не завершаны. Чым? Чаго не хапала? Якойсьці дробязі, нязначнай, з камарыны нос.* Ермаловіч.

**ЗРЫВАЦЬ НОС.** Гл. зрываць.

**КАПЫЛІЦЬ НОС.** Гл. капыліць.

**НАСТАВІЦЬ НОС** *каму. Зак. да* **НАСТАЎЛЯЦЬ НОС** *каму.*

**НА Н`ОС.** *Дап. Праст.* Кожнаму, на кожнага. **Сін**.: на брата; на рыла. *Містэр Шульц не стаў раздаваць налева і направа ўсім прадстаўнікам афрыканскіх краін, змораным голадам, па бляшанцы на нос гэтага каларыйнага харчу.* «Звязда». *—Гані паўтары тысячы на нос — тады і гаварыць можна. —За што?! За гэту развалюху?!* Блакіт. *[Грузчыкі] па трыццаць пяць рублёў на нос у дзень выкалацілі* М.Капыловіч.

**НАЦЯГНУЦЬ НОС** *каму.* Гл. нацягнуць.

**НЕ Ў Н`ОС** *каму. Вык. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета ці пры дзейн.-займ. *гэта.* Не падабаецца. **Сін**.: не па носе

*каму*; не ў нюх *каму. За хараство і вось за гэту цёплую ўсмешку і ўзяў Юзік Зосю... А бацьку ды мачасе гэта не ў нос.* Крапіва. *Вунь тая, даўжэйшая, аж на сем кіламетраў б'е... Калі, брат, тваркане каторая, аж пыл ляціць з фашыстаў. Не любяць. Гэта ім не ў нос.* Лынькоў. *Мая работа табе, хлопец, відаць, не ў нос.* Пташнікаў.

**НОСАМ У НОС.** Гл. нос.

**Н`ОС НЕ ДАР`ОС** *у каго, чый. У безас. ужыв. Праст. Іран.* Хто-н. занадта малады ці недастаткова вопытны, каб займацца чым-н. **Сін**.: малако на губах не абсохла *ў каго. Вунь Пецька Смык папрасіў [закурыць], дык Міністр яго абсмяяў перад усімі: —Нос не дарос. Ты спачатку яго ўтры.* Сяркоў. *—Яшчэ, пане, твой чырвоны нос не дарос, каб ты ў мяне... — крычаў Духмуровіч-Куцілоўскі.* Пестрак.

**Н`ОС (Н`ОСАМ) У Н`ОС** <u>сутыкацца (сутыкнуцца), сустракацца (сустрэцца)</u> і пад. *Акал. Разм.* Вельмі блізка адзін да другога. **Сін**.: вочы ў вочы (у 1 знач.); грудзі ў грудзі; лоб у лоб; носам к носу; тварам да твару (у 1 знач.); твар у твар (у 1 знач.). *Мінуўшы Лізюкоў дом, Лосік нос у нос сутыкаецца з Лявонам Бяганскім.* Навуменка. *Памятаеш, як наляцелі на засаду ля Глухога пераезда? А як у лютым, у завею, на чыгунцы нос у нос сутыкнуліся з патрулямі?..* Савіцкі. *Яўмен выпаўз са свайго сховішча і нос у нос сустрэўся з сваім суседам, вясковым настаўнікам.* Казько. *Мяне маглі заўважыць у завірушным месіве, сутыкнуўшыся хіба носам у нос.* Хадкевіч. *Толькі Мотуз выйшаў на галоўны праход, як носам у нос сутыкнуўся з Дзёмічам.* Мыслівец.

**ПАВАДЗІЦЬ ЗА НОС** *каго.* Гл. павадзіць.

**ПАДЦЕРЦІ НОС** *каму.* Гл. падцерці.

**ПУЗА НА НОС ЛЕЗЕ** *ў каго.* Гл. пуза.

**<САБ`Е> ПАД Н`ОС** <u>бубніць, мармытаць</u> і пад. *Акал. Праст.* Вельмі ціха, невыразна. *[Жонка:] Што там бурчыш пад нос? Скрабеш каля вуха!* Купала. *І збірае дзед манаткі ды бубніць сабе пад нос: «Дзе ж ён дзеўся, небажаткі? Куды прах яго панёс?»* Колас. *Дворнічыха злуе і пачынае бубніць сабе пад нос — гэта тое, за што яе на дварэ мелі за ліхую бабу.* Чорны. *Нехта блізка мармытнуў пад нос: — У нас такога няма...* Дамашэвіч.

**СОВАЦЬ <СВОЙ> НОС** *куды, у што.* Гл. соваць.

**ТКНУЦЬ <СВОЙ> НОС** *куды.* Гл. ткнуць.

**ТРЫМАЦЬ НОС ПА ВЕТРЫ.** Гл. трымаць.

**ТЫЦКАЦЬ ПАД НОС** *каму што.* Гл. тыцкаць.

**ТЫЦКАЦЬ <СВОЙ> НОС** *куды, у што.* Гл. тыцкаць.

**ТЫЦКАЦЬ У НОС** *каму.* Гл. тыцкаць.

**УДАРЫЦЬ У НОС**. Гл. ударыць.

**У Н`ОС** *гаварыць, вымайляць* і пад. *Акал. Разм.* Гугнява, з насавым прыгукам. *Гэта быў другі настаўнік Верханскай школы, ён назваў сябе Анцыпікам. Гаварыў ён трохі ў нос.* Колас. *Паціраючы чорныя рукі з крывымі пальцамі, [дзед] кажа троху ў нос: —Яно цяпер, скажу вам, цёпла на начлезе, лепш, чым у сваёй хаце — ні камароў, ні машкары.* Каваль.

**ФІНДОС ПАД НОС** *каму.* Гл. фіндос.

*НОСА* • **БЕЗ ФІГІ НІ ДА НОСА.** Гл. фігі.

**ДАВАЦЬ НОСА** *каму.* Гл. даваць.

**З Н`ОСА.** *Акал. Праст.* З кожнага, з аднаго чалавека (браць, плаціць, скідацца і пад.). *Каб прыйшлося ў нас паядаць гэтак на станцыі, то не выкупіўся б і трыма рублямі з носа.* Купала. *Справа залежыць зараз ад нас — згодзішся вучыць, і вучні будуць, — па тры рублі ў месяц з носа!* Колас. *Плата тут такая — па дзесятцы з носа. Так, Ігнацьеўна?* Дзятлаў.

*Твая (ваша, яго, яе) справа (дзела)* **З Н`ОСА (-У) К`АП, А Ў Р`ОТ Х`АП.** *Вык. Праст. Груб.* Вельмі малая, зусім не датычыць каго-н. *[Цярэшка:] Не ваша дзела да майго старастве. Ваша справа — з носа кап, а ў рот хап. І ўсё тут!* Макаёнак. *У цябе не спытаў. Твая справа — з носу кап, а ў рот хап!* Калодзежны. *Тваё дзела, малады чалавек, такое: з носа кап, а ў рот хап...* Масарэнка. *Калі трэба — сам скажу. А тваё дзела з носа кап, а ў рот хап.* Кузьмянкоў.

**З-ПАД Н`ОСА** *чыйго, каго, у каго. Акал. Праст.* Зусім зблізку, з самай блізкай адлегласці (браць, выносіць, вылятаць, уцякаць і пад.). *[Мішка] пабег, што было сілы, па кустах, па алешніку, спалохаўшы некалькіх птушак, якія вылецелі з густой травы проста з-пад Мішкавага носа.* Лынькоў. *Паранены асколкам у жывот, ён [Жмачэнка] ледзь ліпеў, і яны дзве ночы выносілі яго з-пад носа немцаў, і толькі выбраліся ў бяспечнае месца, як ён сканаў.* Быкаў. *[Тубі] напружыўся, штурхануў таварыша і выхапіў камень у яго з-пад носа.* Маўр.

**КАМАР НОСА НЕ ПАДТОЧЫЦЬ.** Гл. камар.

**КРОЎ З НОСА, А...** Гл. кроў.

**КРУКАМ НОСА НЕ ДАСТАЦЬ** *у каго, каму.* Гл. дастаць.

**НЕ БАЧЫЦЬ ДАЛЕЙ <СВАЙГО> НОСА.** Гл. бачыць.

**НЕ КАЗАЦЬ НОСА** *куды.* Гл. казаць.

**НЕ МАЙГО НОСА ПАЛОСА.** Гл. палоса.

**НЕ ПАТЫКАЦЬ НОСА** *куды, да каго.* Гл. патыкаць.

**НОСА НЕ ЎБІЦЬ** *<куды>.* Гл. убіць.

**НОСА НЯМА ДЗЕ ЎБІЦЬ.** Гл. няма.

**СОВАЦЬ НОСА НЕ Ў СВАЁ ПРОСА.** Гл. соваць.

**ФІГАЙ НОСА НЕ ДАСТАЦЬ** *у каго, каму.* Гл. дастаць.

**ШТО З НОСА СПАДЗЕ** *даваць* і пад. Гл. спадзе.

*НОСАМ* ● **ЗААРАЦЬ НОСАМ** *што, у што.* Гл. заараць.

**ЗАКЛЯВАЦЬ НОСАМ.** Гл. закляваць.

**ЗАРЫЦЬ НОСАМ** *у што.* Гл. зарыць.

**З ЗАДР`АНЫМ (ЗАДЗ`ЁРТЫМ) Н`ОСАМ.** *Часцей акал. Праст. Неадабр.* Фанабэрыста, з зазнайствам. *Барташэвіч насіўся па рэдакцыі з задраным носам: як-ніяк намеснік рэдактара.* Сабаленка. *Помнік быў дакладна падобны да.. Гітлера з задзёртым носам.* Крапіва.

*Пакідаць, заставацца, ісці* і інш. **З Н`ОСАМ.** *Акал. Разм.* Без таго, на што разлічваў, спадзяваўся хто-н., чаго дабіваўся. **Сін.**: без штаноў; з голымі рукамі (у 1 знач.); з такам; ля разбітага карыта; на бабах; ні з чым; нясолана хлябаўшы; перад разбітым карытам; пры пікавых інтарэсах. *Хлопцу хацелася ўсё зрабіць спрытна, умела, як кажуць, пакінуць ворагаў з носам.* Гамолка. *Ты там знайдзі, Міша, гарадскую ды пакінь Юліяна і Галю з носам!* Лупсякоў. *Васілю было проста непрыемна, што ён, войт, нягледзячы на ўсе захады, каб злавіць старога Талаша, аставайся, як кажуць, з носам.* Колас. *Усе ведалі, што Багінскі Коля — студэнт першага курса, безнадзейна закаханы ў яе, некалькі разоў напрошваўся да Ані ў праважатыя і кожны раз ішоў «з носам».* Васілевіч.

**КЛЯВАЦЬ НОСАМ.** Гл. кляваць.

**КРУЦІЦЬ НОСАМ.** Гл. круціць.

**НЕ З** *чыім* **Н`ОСАМ.** *У безас. ужыв. Часцей у спалучэнні з інф. Праст.* Каму-н. не хапае ўмення, здольнасцей і пад. на што-н. **Сін.**: не з *чыімі* зубамі. *—Жылі б, жывымі ў зямлю не палезлі б. А можа б і на сваю гаспадарку ўзбіліся. —Дзе ты бачыла! — махае рукою Максім. — Не з нашым носам.* Колас. *Яе [Інчыны] карыя вочы глядзелі на Рэню так, быццам гаварылі: «Не з тваім носам справіцца з латынню!..»* Ялоўчык.

**Н`ОСАМ К Н`ОСУ** *сутыкацца (сутыкнуцца), сустракацца (сустрэцца)* і пад. *Акал. Разм.* Вельмі блізка адзін ад аднаго. **Сін.**: вочы ў вочы (у 1 знач.); грудзі ў грудзі; лоб у лоб; носам у нос; нос у нос; тварам да твару (у 1 знач.); тварам у твар (у 1 знач.); твар у твар (у 1 знач.). *Касабуцкі, сутыкнуўшыся носам к носу з Лютынскім, прыкладвае растапыраныя пальцы да вуха.* Крапіва. *Пасля трохгадзіннай барацьбы з дыванамі Крупеня носам к носу сустрэўся з сястрой жонкі і яе мужам.* «Маладосць».

**Н`ОСАМ У Н`ОС.** Гл. нос.

**ПАД <С`АМЫМ> Н`ОСАМ** *у каго, чыім, каго. Акал. Праст.* У

непасрэднай блізкасці ад каго-н., побач, блізка. **Сін**.: адзін крок *ад чаго да чаго*; за два крокі *ад каго, ад чаго*; за плячамі *каго, у каго* (у 2 знач.); не за гарамі (у 1 знач.); пад бокам (у 1 знач.); пад рукамі (у 2 знач.); пад рукой (у 2 знач.); перад вачамі <*чыімі*>; перад носам <*каго, чыім*>; рукой падаць *да чаго. [Маршалак:] Пад самым носам у нас замышляюцца падзеі, падзеі рэвалюцыйнага парадку, праўдзівей сказаць, рэвалюцыйнай катэгорыі.* Колас. *Лемяшэвіч сігануў збоку і пад самым носам старшыні затаптаў агонь.* Шамякін. *Занятыя сваёй справай, немцы не звярталі на іншае ўвагі, але, ведама, не так, каб не заўважыць двух рускіх, калі тыя пад іх носам надумаюць перабягаць шашу.* Быкаў.

**П`ЕРАД Н`ОСАМ** *<каго, чыім>. Акал. Праст.* У непасрэднай блізкасці ад каго-н., побач, блізка. **Сін**.: адзін крок *ад чаго да чаго;* за два крокі *ад каго, ад чаго*; за плячамі *каго, у каго* (у 2 знач.); не за гарамі (у 1 знач.); пад бокам (у 1 знач.); пад рукамі (у 2 знач.); пад рукой (у 2 знач.); пад <самым> носам *у каго, чыім, каго*; перад вачамі <*чыімі*>; рукой падаць *да чаго. [Дзяк] быў крыклівы, гарласты і сваё права бараніў з такім жарам, што толькі Тарас Іванавіч Шырокі, стукнуўшы кулаком-молатам перад носам Памахайліка, наводзіў на яго страх і змушаў заціхаць.* Колас. *—Хіба што здарылася? — Семафор перад носам закрылі, — адказаў кандуктар.* Лобан.

**РЫЦЬ НОСАМ** *што.* Гл. рыць.

**ТЫЦКАЦЬ НОСАМ** *каго ў што.* Гл. тыцкаць.

**УТКНУЦЦА НОСАМ** *у што.* Гл. уткнуцца.

*НОСЕ* ● **ВІСЕЦЬ НА НОСЕ** *ў каго.* Гл. вісець.

**ДЗВЕ ДЗЮРКІ Ў НОСЕ І СКАНЧЫЛОСЯ.** Гл. дзюркі.

**ЗАКРУЦІЛА Ў НОСЕ** *каму.* Гл. закруціла.

**ЗАРУБІЦЬ <САБЕ> НА НОСЕ** <*што*>. Гл. зарубіць.

**З МУХАМІ Ў НОСЕ.** Гл. мухамі.

**МЕЦЬ МУХ У НОСЕ.** Гл. мець.

**МУХІ Ў НОСЕ.** Гл. мухі.

**НА Н`ОСЕ.** *Вык. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. У самы бліжэйшы час будзе, наступіць што-н. **Сін**.: на парозе (у 1 знач.); не за гарамі (у 2 знач.). *Надышла, нарэшце, такая пара, што самы раз з Яначкам гаварыць: дзень святы — вялікдзень і сяўба на носе.* Крапіва. *Ты паглядзі, каторая пара! Раніца на носе, а ён з дакладамі раз'ехаўся на цэлую ноч.* Калюга. *Крыгі ідуць на Дзвіне — проста жах, а на крызе сядзіць, брат, чырвоны певень. Тут смерць на носе, а ён — ку-ка-рэ-ку!..* Брыль. *Мама пачне сварыцца: экзамены, маўляў, на носе, а яна гуляе...* Савіцкі.

**НЕ ПА Н`ОСЕ** *каму. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр.

прадмета. Не падабаецца. **Сін**.: не ў нос *каму*; не ў нюх *каму. Злавала Гаўрылу залішняя порсткасць лесніка, які назойліва тыкае пальцам ва ўсё, што яму не па носе.* Кудравец.

*НОСІЦЬ* ● **БУРА НОСІЦЬ** *каго.* Гл. бура.

*Як* **ЗЯМЛЯ НОСІЦЬ** *каго.* Гл. зямля.

**КАЛАНІЦА НОСІЦЬ** *каго дзе, калі.* Гл. каланіца.

**ЛІХА НОСІЦЬ** *каго дзе. Гл.* ліха.

**НЯЛЁГКАЯ НОСІЦЬ** *каго дзе.* Гл. нялёгкая.

**НЯЧЫСТАЯ СІЛА НОСІЦЬ** *каго дзе.* Гл. сіла.

**НЯЧЫСЦІК НОСІЦЬ** *каго дзе.* Гл. нячысцік.

**ПАКАЗАЦЬ НА ЧЫМ СВІННЯ ХВОСТ НОСІЦЬ** *каму.* Гл паказаць.

**ХАЛЕРА НОСІЦЬ** *каго дзе.* Гл. халера.

**ХВАРОБА НОСІЦЬ** *каго дзе.* Гл. хвароба.

**ЧОРТ НОСІЦЬ** *каго дзе.* Гл. чорт.

**ЯКОЕ ЛІХА НОСІЦЬ** *каго дзе.* Гл. ліха.

*НОСУ* ● **НОСАМ К НОСУ.** Гл. носам.

*НОСЯЦЬ* ● **НОГІ НЕ НОСЯЦЬ** *каго.* Гл. ногі.

*Пакуль* **НОГІ НОСЯЦЬ.** Гл. ногі.

*НОТАХ* ● **НА ВЫС`ОКІХ Н`ОТАХ (НА ВЫС`ОКАЙ Н`ОЦЕ)** гаварыць, пагаварыць і пад. *Акал. Разм.* Вельмі гучна і нядобразычліва. *[Мікіта Сымонавіч] богу душу аддаў... Паспрачаўся з начальствам пансіяната. Прывёз туды самасудам нейкага беспрытульнага старога... А яго не прынялі... Пагаварылі на высокіх нотах — і... пляснуўся Мікітка...* Губарэвіч. *[Міхась] падумаў, ці не ўстаў сёння не з той нагі: з жонкай пагаварыў на высокіх нотах, і рабочы дзень пачынаецца навыварат.* І.Капыловіч. *Афіцэр на высокай ноце зачытаў абвінавальчую прамову.* Марчук.

**ЯК ПА Н`ОТАХ.** *Акал. Разм.* **1**. Так, як планавалася, без ускладненняў і нечаканасцей (ісці, выходзіць і пад.). **Сін**.: як па пісаным (у 2 знач.). *Справа цёмная. Некаторыя кажуць, што паліцыя ўсе яго ўцёкі разыграла як па нотах.* Машара. *—Усё, братка, выйшла як па нотах! — далажыў Ваня. —Справіліся яны са сваім шэфам, падпалілі казарму і гайда са зброяй паходнай калонай — аж да Рацькавіч!* Новікаў.

**2**. Бойка, гладка, без запінкі (гаварыць, расказваць і пад.). **Сін**.: як па пісаным (у 2 знач.); як рэпу грызці. *Тады ўсё было натуральна, і кожны выказваў свае думкі. А тут гаварылі як па нотах, быццам кожны загадзя вывучыў сваю партыю.* Кобец-Філімонава.

*НОЦЕ* ● **НА ВЫСОКАЙ НОЦЕ.** Гл. нотах.

*НОЧ* ● **ВАРФАЛАМ`ЕЕЎСКАЯ Н`ОЧ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Масавае, нечаканае знішчэнне каго-н. *Ляцяць! Нашы ляцяць!*

*Родныя мае! Хутчэй! Хутчэй! Пачакай. Пачакай хвілінačку! Зараз будзе варфаламееўская ноч фашыстам. Ляцяць!* Шамякін. *—Вось зрабіць бы варфаламееўскую ноч усяму гэтаму зброду, — працягваў фантазіраваць Патапенка, — і ачысціць ад яго нашу неабдымную імперыю.* Хомчанка.

**І ДЗЕНЬ І НОЧ.** Гл. дзень.

**ЛЮДЗІ НОЧ РАЗБЯРУЦЬ.** Гл. людзі.

**НА НОЧ ГЛЕДЗЯЧЫ.** Гл. гледзячы.

**ТЫСЯЧА І АДНА НОЧ.** Гл. тысяча.

*НОЧНА* ● **ДЗЁННА І НОЧНА.**

*НОЧЧУ* ● **НІ ДНЁМ НІ НОЧЧУ**. Гл. днём.

*НОЧЫ* ● **НІ ДНЯ НІ НОЧЫ** *няма.* Гл. дня.

**РЫЦАР НОЧЫ.** Гл. рыцар.

*НУ* ● **НІ ТПРУ НІ НУ.** Гл. тпру.

**НУ І Н`У!** *Выкл. Разм.* Вокліч здзіўлення, захаплення, ганьбавання і пад. **Сін**.: вось <яно> што!; вось <яно> як!; скажы калі ласка! *Пшыбульскі тваімі рукамі будзе сабе розныя цацкі выраблядь. І ён яшчэ ўдзячны яму за ласку такую? Бачылі такога дурня! Ну і ну...* Шынклер. *—Ну, ды ладна, давайце за стол: будзем есці. —Ну і ну! — сказаў Агееў, здзіўлены і азадачаны. —Во гэта гаспадыня!* Быкаў.

*НУЛЬ* ● **АБСАЛ`ЮТНЫ Н`УЛЬ.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Нікчэмны чалавек, зусім бескарысны ў якой-н. справе. *Хоць [«дзеяч»] асабіста для ўсіх нас уяўляў сабою абсалютны нуль, але ж з займаемага крэсла яму прагнулася даваць «каштоўныя ўказанні», і, хочаш не хочаш, кожны, калі ён выклікаў, павінен быў выслухоўваць яго саматужныя прамудрасці.* Кірэенка. *У якасці адступлення дазволю сабе дасціпны жарт: абсалютныя нулі маюцца не толькі ў матэматыцы... Прашу дакладна занатаваць мой афарызм.* «Вожык».

**Н`УЛЬ БЕЗ П`АЛАЧКІ** *для каго, без каго, перад кім. Адз. і мн. Вык. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нічога не значыць, нічога з сябе не ўяўляе. **Сін**.: пустое месца *<для каго>*. *Хай ведае, што яго лішнія дзесятак гадоў, і яго старастоўства, і сам ён для людзей — нуль без палачкі. Падумаеш, гаспадар над усёй вёскай з'явіўся.* Паўлаў. *[Кічкайла:] Дык вось я прапаную тост за жанчыну-настаўніка, за жанчыну-ўрача, за жанчыну-прадаўца... Інакш кажучы, за жанчыну, без якой мы, мужчыны, нуль без палачкі!* Матукоўскі. *Не падабаецца, што ён, Башлыкоў, не па-таварыску неяк робіць. Як скажы ты — разумней за ўсіх і правільней. Як усе нулі без палачкі перад ім...* Мележ.

**Н`УЛЬ-Н`УЛЬ.** У *знач. удакладняльнай часціцы. Разм. Ужыв. пасля лічэбн.* Роўна, якраз у столькі гадзін, колькі названа. *[Рыбнікаў:] Усім*

*палітрукам і іх намеснікам заўтра ў дзесяць нуль-нуль сабрацца тут, у клубе.* Крапіва. *Тады падрыхтавацца да бою! У пяць нуль-нуль выступаем.* Гурскі. *У дарогу выправіліся ў дваццаць тры нуль-нуль.* Васілёнак.

**Н`УЛЬ УВ`АГІ** *каму, чаму, на каго, на што. Мн. не ўжыв. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Зусім не зважаць на каго-, што-н., абыякава адносіцца да каго-, чаго-н. *Мітка захварэў: ні сухой макавінкі ў рот не бярэ, поўная адсутнасць апетыту, харчам — нуль увагі.* Лынькоў. *Я крычаць, я тукаць на іх [ваўкоў], валасы ў мяне дыбам. А яны не зважаюць, нуль увагі мне.* Ракітны. *—І табе нічога не сніцца? —Сніцца, чаму. Рознае. Але я нуль увагі.* Быкаў. *Закахаўся я ў гэтую самую Таню, як кажуць, па самыя вушы, а яна на мяне — буду і тут шчыры — нуль увагі, нават і не глядзіць.* Сачанка. *На супрацьлеглым баку дзеўчынёха вудзіць рыбу. Стройная, маладая, у яркай матросцы... На заляцанні – нуль увагі.* Пашкоў.

**ПАД Н`УЛЬ** <u>абстрыгаць (абстрыгчы), стрыгчы.</u> *Акал. Разм.* Нагала, не пакідаючы валасоў. *Удвух весялей было ісці ў мястэчка, весялей было сядаць пад машынку цырульніка, які хутка і без жалю абстрыгаў усіх прызыўнікоў пад нуль.* А.Марціновіч. *—Абалванілі цябе ўжо? — [Каця] правяла рукою па яго калючай і рыжаватай, стрыжанай пад нуль галаве.* Місько. *Міліцыянер уводзіць Салавейчыка, вялізнага бамбізу, абстрыжанага «пад нуль».* Матукоўскі.

*НУЛЯ* ● **ЗВОДЗІЦЬ ДА НУЛЯ** *што.* Гл. зводзіць.

<u>Пачынаць</u> **З НУЛ`Я.** *Акал. Разм.* З самага пачатку. **Сін**.: на голым месцы. *Новаму настаўніку клопату хапіла. Усё, усё трэба было пачынаць з нуля.* С.Александровіч. *Ясна, за што ні вазьміся — усё трэба з нуля пачынаць.* Масарэнка. *Росшук даводзіцца пачынаць, лічы, з нуля.* А.Жук.

*НУМАР* ● **Н`УМАР АДЗ`ІН.** *Азн. Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пасля наз. са знач. абстр. прадмета. Найбольш важны, самы галоўны, першаступенны. *Знаеш, сельская гаспадарка — праблема нумар адзін.* Асіпенка. *Бачыш, колькі клопату набіраецца. Цэлая куча. А гэта яшчэ не ўсё. Праблема нумар адзін — харч.* Гамолка. *Спадзяюся, што і ты, і Кудзінаў разумееце задачу нумар адзін — якасць.* «Полымя».

**2**. Ужыв. пасля наз. са знач. асобы. Лепшы сярод падобных. *На самой сваёй пасадзе дырэктар школы — педагог нумар адзін.* «Настаўн. газ.» *А.Я.Багдановіч для Шэйна быў сапраўднай знаходкай. Ён адводзіў яму месца пастаўшчыка нумар адзін, ускладваючы*

*самыя вялікія надзеі ў назапашванні фальклорнага матэрыялу.* «Полымя». *[Федзя:] Пачаў з «Факела», а стаў селькорам нумар адзін Аршанскай акруговай газеты.* Ісачанка.

*НУТРО* ● **ВЫВАРОЧВАЦЬ НУТРО** *чые, каму.* Гл. выварочваць.

**НУТР`О ГАР`ЫЦЬ** *чыё, у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. вельмі ўсхваляваны, узбуджаны. **Сін**.: галава баліць *чыя, у каго, каму пра што, аб чым, па кім, па чым*; галава гарыць *у каго*; душа баліць *чыя, у каго, каму* (у 2 знач.); душа гарыць *чыя, у каго*; душа не на месцы *ў каго*; душа ные *чыя, каму, у каго* (у 2 знач.); кошкі душу скрабуць *у каго, каму*; кошкі на душы скрабуць *у каго, чыёй*; сэрца ёкнула *ў каго*; сэрца замірае *ў каго, чыё*; сэрца заходзіцца *ў каго*; сэрца як не выскачыць *у каго. Уцёр рукавом ён [Янка] скрываўлены твар — ад крыўды і гневу нутро ўсё гарыць.* Крапіва. *Хоць і не злуюць адзін на аднаго, хоць і цёплая ласка ўзгарыцца, зацьмее часамі, а нутро гарыць...* Зарэцкі.

**ПЕРАВАРОЧВАЦЬ <УСЁ> НУТРО** *ў каго.* Гл. пераварочваць.

*НУТРЫ* ● **ПА НУТР`Ы** *каму. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Падабаецца. **Сін**.: да густу *каму*; да душы *каму*; да смаку *каму*; да сэрца *каму*; западаць у вока *каму* (у 2 знач.); па густу *каму*; пад густ *каму*; па душы *каму*; па сэрцы *каму*; як маслам па душы *каму.* **Ант**.: не ў смак *каму. Розныя літаратурныя снобы, крытыкі, мадэрністы... Ім не зусім па нутры была творчасць Язэпа Апанасавіча.* Сачанка. *[Жонка] як пачне накручвацца, раскручвацца, як падастае свае флакончыкі, шчыпчыкі, пілачкі, шчотачкі — паўсвету можна аб'ехаць і назад вярнуцца. Жэўжыку не па нутры такія зборы.* Клебановіч. *А Іван жа вам ох як не па нутры! Ён жа вам першы палку ў кола ўставіць!* «Маладосць».

<u>Прыйсціся</u> **ПА НУТР`Ы.** *Акал. Разм.* Даспадобы (прыйсціся каму-н.). **Сін**.: *прыйсціся* да густу; *прыйсціся* да душы; *прыйсціся* да смаку; *прыйсціся* па густу; *прыйсціся* пад густ; *прыйсціся* пад нораў; *прыйсціся* па душы; *прыйсціся* па сэрцы; у масць. *Паўз плот стаяла некалькі закаржанелых вішань, якім, мабыць, не па нутры прыйшлася тутэшняя вільготная і тлустая зямля.* А.Жук.

*НЫЕ* ● **ДУША НЫЕ** *чыя, каму, у каго.* Гл. душа.

*НЮНІ* ● **РАСПУСКАЦЬ НЮНІ.** Гл. распускаць.

*НЮХ* ● **НА НЮХ ТАБАКІ.** Гл. панюх.

**НЕ Ў Н`ЮХ** *каму. Вык. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Не падабаецца. **Сін**.: не па носе *каму*; не ў нос *каму. Цяпер жа ўсе граматныя, ледзь што не ў нюх — шах, і заява. А то і ананімка.* Гігевіч. *І яшчэ — надта жоначцы не папускайся, ледзь што не ў нюх — таксама на дыбкі станавіся.* «Маладосць».

**НІ ЗА НЮХ ТАБАКІ.** Гл. панюх.

*НЮХАЦЬ* ● **І НЕ Н`ЮХАЦЬ** *чаго. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не мець ніякага ўяўлення пра што-н., не зведваць, не зазнаваць чаго-н. *Сапраўдны даносчык ніколі не пакажа праўды, бо ён яе і не нюхае ніколі.* Чорны. *Краем вуха чуў усё, што робіцца навокал. Як іх вычытваюць па прозвішчах, фарміруюць у групы, падбіраюць па росту. Не! Гэта ўсё яшчэ паломіцца не раз, — кажа сабе Клімёнак, хоць гэтага ўсяго яшчэ і не нюхаў.* Дамашэвіч.

**Н`ЮХАЦЬ ЗЯМЛ`Ю.** *Незак. Разм. Іран.* Ужыв пры дзейн. са знач. асобы. Падаць плазам, прыціснуўшыся да зямлі. *Стала непрыемна, крыўдна, абразліва, што мы нюхаем зямлю з-за нейкай адной паршывай бомбы...* Шамякін. **ПАНЮХАЦЬ ЗЯМЛЮ.** *Зак. Мы чакаем, калі той падэспаньшчык будзе вяртацца дамоў. Тады Санька выйдзе насустрач і так дасць пад дыхавіцу, што ён зямлю панюхае.* Сяркоў. *— Пусці яе. — Гэта загад?.. — Зямлі панюхаць закарцела? — Палохаеш?* Калодзежны.

**Н`ЮХАЦЬ П`ОРАХ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ваяваць, удзельнічаць у баі. *Калісьці шэф таксама нюхаў порах.* Крапіва. *Косця табе не які-небудзь элемент, Ён франты прайшоў, ён порах нюхаў, а хто дзе аддзякаваў яму?* Чорны. **ПАНЮХАЦЬ ПОРАХУ.** *Зак. Нам, можа, не давядзецца пораху панюхаць, мы ўжо ў гадах з табой, Пятрок...* Гроднеў. *Ідзі, панюхай і ты пораху — больш чаго зразумееш...* Якавенка. **НЕ НЮХАЦЬ ПОРАХУ.** З супрацьлеглым знач. *І ўсё ж, калі яна [вайна] прыйшла, для нас, асабліва для тых, хто не нюхаў пораху, была страшэннай і незразумелай навалай. Ды хіба толькі для тых, хто не нюхаў гюраху?* Сабаленка. *Ты, напэўна, яшчэ і пораху не нюхаў, лейтэнант. З тылу, з запасу, адразу відно.* Хадкевіч.

*НЯБЕСНАЕ* ● **ПУСКАЦЬ У ЦАРСТВА НЯБЕСНАЕ** *каго.* Гл. пускаць.

**ЦАРСТВА НЯБЕСНАЕ.** Гл. царства.

**ЦАРСТВА НЯБЕСНАЕ** *каму.* Гл. царства.

*НЯБЕСНАЙ* ● **МАННЫ НЯБЕСНАЙ** *чакаць.* Гл. манны.

**ЯК МАННЫ НЯБЕСНАЙ.** Гл. манны.

*НЯБЕСНАЯ* ● **МАННА НЯБЕСНАЯ.** Гл. манна.

**МАННА НЯБЕСНАЯ СЫПЛЕЦЦА** *каму.* Гл. манна.

**НЯБЕСНАЯ КАНЦЫЛЯРЫЯ.** Гл. канцылярыя.

*НЯБЁС* ● **СЕМ ВЁРСТ ДА НЯБЁС І ЎСЕ ЛЕСАМ.** Гл. вёрст.

**УЗНОСІЦЬ ДА НЯБЁС** *каго, што.* Гл. узносіць.

*НЯБОЖЧЫК* ● **ЖЫВ`Ы НЯБ`ОЖЧЫК**. *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм.* **1.** Вельмі слабы, блізкі да смерці чалавек. **Сін.**: жывы труп. *Скрыпяць трухляцінай асіны, над курганамі звяр'ё вые... Гасцінцам,*

*церневай пуцінай, у ёрмах, скованы, скацінай ідуць нябожчыкі жывыя.* Купала.

**2.** Неіснуючая асоба, якая толькі фіктыўна лічыцца дзе-н. **Сін.**: мёртвыя душы. *Здаралася наадварот: па зоне блукалі «жывыя нябожчыкі». Не надта пісьменныя брыгадзіры часам памыляліся: памрэ Гогіберыдзе, а ў рапарцічцы спішуць Насарыдзе…* Грахоўскі.

*НЯБОСЬ* ● **НА АВОСЬ ДЫ НЯБОСЬ.** Гл. авось.

*НЯБЫТ* ● **АДЫХОДЗІЦЬ У НЯБЫТ.** Гл. адыходзіць.

**АДЫХОД У НЯБЫТ**. Гл. адыход.

*НЯВЕРНЫ* ● **ФАМА НЯВЕРНЫ.** Гл. фама.

*НЯВЕРУЮЧЫ* ● **ФАМА НЯВЕРУЮЧЫ.** Гл. фама.

*НЯВЕСТА* ● **Б`ОГАВА (ХРЫСТ`ОВА) НЯВ`ЕСТА.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. сказа. Разм.* **1.** Манашка. *І часам, ходзячы каля Дзвіны або седзячы ля акенца сваёй святліцы, Кацера нешта напявала невядомае самой сабе, нешта шаптала. Тады чаляднікі казалі: «Зноў наша баярышня моліцца Хрысту. Пэўна, адна ёй дарога – манастыр. Быць ёй богавай нявестай».* Дайнека.

**2.** Немаладая незамужняя жанчына. – *То выручы – памажы падабраць якую хрыстову нявесту. Пабудзь сватам… – У яго голасе была здзеклівая яхіднасць. – Толькі хачу папярэдзіць: старыя дзеўкі – не ў маім амплуа…* Блакіт.

*НЯГОЖ* ● **А НЯГОЖ.** У *знач. сцвярдж. часціцы. Разм.* Ага, так. **Сін.**: а як жа; дзіва што (у 1 знач.); чаму <ж> не; яшчэ як. — *Сядайце, панове, за стол. Сёння частуе сахалінскі рыбак Павел Анкуда. — А нягож. Стаім чужакамі.* Карамазаў. — *Пацукам цяпер толькі і жыць! —А нягож. Ніхто іх не вынішчае.* Быкаў. — *У мяне унь два кані ёсць. — Сапраўдныя коні?.. — А нягож.* Караткевіч.

*НЯДОБРАЙ* ● **НЯДОБРАЙ ПАМЯЦІ.** Гл. памяці.

*НЯЛЁГКАЯ* ● **НЯЛ`ЁГКАЯ Г`ОНІЦЬ** *каго. Незак. У безас. ужыв. Праст.* Хто-н. недарэчы, не ў пару прыходзіць, з'яўляецца. Выказванне незадавальнення ў сувязі з прыходам нежаданага госця, наведвальніка. **Сін.**: ліха гоніць *каго*; ліха нясе *каго*; нялёгкая нясе *каго*; нячыстая <сіла> гоніць *каго*; нячыстая <сіла> нясе *каго*; нячысцік нясе *каго*; трасца нясе *каго*; халера нясе *каго*; чорт гоніць *каго*; чорт нясе *каго*. *[Яніна:] Ведзьма ідзе… Леснічыха. [Люба:] Чаго ж яе нялёгкая гоніць сюды?* Козел. **НЯЛ`ЁГКАЯ (ПРЫГН`АЛА)** *каго. Зак. Прыгнала іх [германцаў] нялёгкая, аж сюды дапялі — жыта выграблі са скрыні, кумпякі паздымалі ў клеці.* Грахоўскі. *А я, вядома, думаў пра тую Ліду, дзеля якой сюды прыгнала мяне нялёгкая.* Ваданосаў.

**НЯЛ`ЁГКАЯ ЗАН`ЕСЛА (ЗАГН`АЛА)** *каго куды. У безас. ужыв.*

*Праст. Неадабр.* Хто-н. нечакана аказаўся дзе-н. **Сін.:** чорт загнаў *каго куды. І трэба ж, занесла яго нялёгкая на тое балота.* Грахоўскі. *Не прыгадаю ўжо, на каго мы тады палявалі, толькі занесла нас нялёгкая аж у самае Тапілішча.* Кандрусевіч. *Ось нялёгкая занесла яго сюды!* Колас. *«Бадай ты спрахла! Дзе ж дарога? На гвалт крычы гарадавога! Куды нялёгкая загнала!» Аж проста дзядзьку страшна стала.* Колас.

**НЯЛ`ЁГКАЯ НАН`ЕСЛА** *каго. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Хто-н. недарэчы, не ў час прыйшоў, прыехаў. *[Марыля:] А божачкі! А божачкі! Янук! Мужчынкі! Што рабіць? Прыехаў секвестратар за падаткі апісваць, а ў нас жа не ўсё выплачана... [Люба:] Во нанесла іх нялёгкая сёння, каб іх пярун пабіў.* Козел.

**НЯЛ`ЁГКАЯ Н`ОСІЦЬ** *каго дзе. У безас. ужыв. Праст.* Хто-н. недарэчы ходзіць, бадзяецца дзе-н. **Сін**.: каланіца носіць *каго дзе, калі*; ліха носіць *каго дзе*; нячыстая сіла носіць *каго дзе*; нячысцік носіць *каго дзе*; халера носіць *каго дзе*; хвароба носіць *каго дзе*; чорт носіць *каго дзе. Асабліва ж у вас у мястэчку, бацюшка, дужа ж бязульны народ, вот часам і кпінамі сустракаюць: чаго вас, кажа, нялёгкая носіць тут...* Лынькоў. *Дзе гэта цябе носіць нялёгкая? Усё гулі табе!* Грахоўскі.

**НЯЛ`ЁГКАЯ НЯС`Е** *каго. Незак. У безас. ужыв. Праст.* Хто-н. недарэчы, не ў пару прыходзіць, з'яўляецца. Выказванне незадавальнення ў сувязі з прыходам нежаданага госця, наведвальніка. **Сін**.: ліха гоніць *каго*; ліха нясе *каго*; нялёгкая гоніць *каго*; нячыстая <сіла> гоніць *каго*; нячыстая <сіла> нясе *каго*; нячысцік нясе *каго*; трасца нясе *каго*; халера нясе *каго*; чорт гоніць *каго*; чорт нясе *каго. — Каго там нялёгкая нясе не ў пару? — сказаў я.* Васілёнак. **НЯЛЁГКАЯ ПРЫНЕСЛА** *каго. Зак. Не паспеў я вярнуцца дадому, як у сяло прыехаў Ліпаў. Ён спыніўся каля Палікарпавай хаты. «Чаго яго прынесла нялёгкая?» — падумаў я.* Якімовіч. *[Данута:] Скажы, каб крыху пахадзіў [Юстын] у садку.. А я трохі прыбяруся. [Гануся:] Прынесла нялёгкая.* Э.Валасевіч.

**НЯЛ`ЁГКАЯ ПАН`ЕСЛА** *каго куды, да каго. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Хто-н. недарэчы, не ў час пайшоў куды-н. **Сін.**: чорт панёс *каго куды. І навошта гэты сход спатрэбіўся?.. Панесла мяне нялёгкая да гэтага Ігната.* Няхай.

*НЯЛЁГКІМ* • **З НЯЛЁГКІМ СЭРЦАМ.** Гл. душой.

*НЯМА* • **АДБ`ОЮ НЯМ`А (НЕ БЫЛ`О, НЕ Б`УДЗЕ)** *ад каго. У безас. ужыв. Разм.* **1**. Занадта многа, больш як трэба каго-н. **Сін**.: ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй

галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. — Ну і вырасла, ну і пахарашэла. — Казік хітра ўсміхнуўся і, нібы жартуючы, запытаў: — Ад кавалераў, мусіць, адбою няма?* Грахоўскі. *На калодзе пры самых дзвярах стаяў апарат, які круцілі рукамі. Ад ахвотнікаў-круцялёў не было адбою.* Вітка.

**2**. Ніяк нельга адвязацца ад каго-н., справіцца адганяць каго-н. — *Адбою ад яго не было! Прыйду, — гаворыць [бухгалтар], — раненька, да людзей, каб спакойна папрацаваць, бачу — Грышчук ужо ідзе.* Ракітны. А *кыш, а кыш!.. Адбою ад вас няма...* Пестрак.

**АД НЯМ`А ЧАГ`О (АД Н`ЕЧАГА) РАБ`ІЦЬ.** *Акал. Разм.* З-за адсутнасці больш сур'ёзнага занятку, справы. *Кухар разбіраў там ужо абсмаленага япрука, а збоку стаяў сам пан і ад няма чаго рабіць глядзеў, як кухар рэжа свежае сала на вялікія пласты, уціскае ў кубел і сыпле зверху соль.* Чорны. *Афіцыянтка не спяшалася, і ад няма чаго рабіць Корзун разглядаў наведнікаў.* Шыцік. *Хлопцы тоўпяцца ля ўвахода і ад нечага рабіць заглядваюць у канцылярыю.* Ракітны.

**БІЦЬ НЯМА КАМУ** *каго.* Гл. біць.

**Б`ОГА НЯМ`А** *на каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. варты асуджэння за несумленны ўчынак. – *Пастанавілі Гужа раскулачыць… Як сабатажніка і што наёмная сіла… – Бога на вас няма! – уздыхнуў Пятрок. – Раскулачыць. Наёмная сіла. У таго ж старшыні Лявона таксама была наёмная сіла. Як малацілі… Во, Ладзіміравы мальцы памагалі… Дык і яго раскулачыць?* Быкаў. – *Не пужайце свінню, злыдні, бога на вас няма. Апаросіцца, спаганіць Вялікдзень, –*

*усплёсквала рукамі, крычала з ганка хаты старая, пэўна, гаспадыня свінні.* Казько.

**ГЛЯДЗЕЦЬ НЯМА НА ШТО.** Гл. глядзець.

**ДАЛЕЙ ЕХАЦЬ НЯМА КУДЫ.** Гл. ехаць.

**ДАЛЕЙ НЯМА КУДЫ.** Гл. некуды.

**ДЗЯЛ`ІЦЬ НЯМ`А ЧАГ`О** *каму. У безас. ужыв. Разм.* У каго-н. няма прычын для сваркі, разладу, варожасці. *Ты мне, Раман, хоць цяпер галаву не дуры. Мы ўжо старыя, і дзяліць нам няма чаго.* Грахоўскі.

**ДЫХН`УЦЬ НЯМ`А КАЛ`І** *каму. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. вельмі заняты, перагружаны работай. **Сін**.: хоць разарвіся *каму* (у 1 знач.). *Нечакана для Кастуся паскардзіўся гэты цягавіты чалавек, што заціскае яго работа, дыхнуць няма калі.* Ярашэвіч. *У мяне ж адзін клопат: наваду першы, трэці паўаўтаматы, зноў лажу, корпаюся каля няспраўнага станка. Дыхнуць няма калі.* Мыслівец. *[Жэня:] За адной гаспадаркай няма калі дыхнуць.* Козел.

**ЖЫВ`ОГА М`ЕСЦА НЯМ`А (НЕ БЫЛ`О).** У *безас. ужыв. Разм.* **1**. *на кім.* Хто-н. вельмі моцна збіты, знявечаны. **Сін**.: жывога месца не засталося (у 1 знач.). *Праз расхрыстаную кашулю відаць буйныя нагнёты. Рукі, ногі забінтаваны. Усё цела скатавана. Жывога месца няма.* Шынклер. *Бацька з вайны вярнуўся ўвесь знявечаны, жывога месца не было.* Блакіт.

**2**. *у чым, дзе.* Што-н. поўнасцю разбурана, знішчана. **Сін**.: жывога месца не засталося (у 2 знач.). *Бачылі горад?.. Жывога месца няма.* Карпаў. *Потым ворагі схамянуліся і ўвесь агонь скіравалі на абаронцаў берагавога плацдарма. На тым пятачку жывога месца не было. Снарады рваліся няспынна.* «Вожык».

**ЗН`ОСУ НЯМ`А (НЕ Б`УДЗЕ)** *каму. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. заўсёды вельмі моцны, здаровы, даўгавечны. *Здавалася, колькі будзеш ты на свеце, столькі будзе і дзед, — такім няма зносу.* Ярашэвіч. *Яму ўжо за сто, але ружовыя шчокі і нос, жывыя іскрынкі ў маленькіх рудых вачах пераконвалі, што Архіпу, відаць, не будзе зносу.* М.Капыловіч. *Баба Каваленчыха — ужо зусім сівая; вочы чорныя, як у цыганкі, а здароўе — здаецца, век ёй зносу не будзе.* Ракітны.

**І КРЫВ`ІНКІ НЯМ`А** *на кім. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. вельмі бледны. **Сін**.: без крывінкі ў твары; ні крывінкі ў твары *ў каго.* *— Ды што ж з табою? — свацця ўспляснула далонямі. — Ды на табе і крывінкі няма.* Далідовіч.

**КАНЦА І КРАЮ НЯМА** *чаму.* Гл. відаць.

**КЛЯЙМ`А (ПР`ОБЫ) СТ`АВІЦЬ НЯМ`А ДЗ`Е (Н`ЕДЗЕ, НЯМ`А

**КУД`Ы)** *на кім. Азн. Разм. Неадабр.* Ужыв. пасля наз. са знач. асобы. Непапраўны, безнадзейны ў сваіх недахопах, адпеты. *Узяць, да прыкладу, яго [Мар'янавых] дзетдомаўцаў, дзетдомавак, ведаў ён, здаецца, усё пра іх: хто з іх гаспадарлівы, сумленны, працавіты, а хто абібок, гультай, кляйма ставіць няма дзе...* Казько. *Чалавек гэта быў нядобры.., памаўзлівы. Браканьер — і кляйма няма куды ставіць.* «Полымя». *[Летапісец], магчыма, не па сваёй волі, змяшаў Братчыка з кароннымм самазванцам Якубам Мялшцінскім, махляром, на якім пробы недзе было ставіць.* Караткевіч.

**КР`ЫЖА НЯМ`А** *на кім. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. бессаромны, несумленны ў якіх-н. дзеяннях, паводзінах. *А хіба без матчынай помачы ён вунь у якія людзі выбіўся б? А ён, выходзіць, забыў матку? Крыжа на ім няма.* І. Капыловіч.

**КРЫЦЬ НЯМА ЧЫМ** *каму.* Гл. крыць.

**Н`ОСА НЯМ`А ДЗ`Е (Н`ЕДЗЕ, НЕ БЫЛ`О КУД`Ы) УБ`ІЦЬ.** *У безас. ужыв. Разм.* Немагчыма праціснуцца куды-н. з-за цеснаты. **Сін.**: ні стаць ні сесці; носа не ўбіць <*куды*>; пальца не ўваб'еш; яблыку няма дзе ўпасці (у 2 знач.). *Набралася людзей, што носа няма дзе ўбіць.* Янкоўскі. *Мужчыны, кабеты, хлопцы, дзяўчаты — адно на адным сядзяць: носа недзе ўбіць.* Крапіва. *На станцыі ў Слуцку таксама не было куды носа ўбіць.* Місько.

**НЯМ`А ДУРН`ЫХ (Д`УРНЯЎ).** *Разм.* **1**. *Выкл.* Выказванне нязгоды з кім-н., адмаўлення рабіць што-н. **Сін.**: знайшоў дурня; нічога падобнага; скулу ў бок *каму*; трымай кішэнь шырэй; чорта з два (у 1 знач.); чорта лысага (у 1 знач.); як бы не так. *І што гэта за людзі? Дурыкамі хочуць хлеб зарабіць. Пачакайце ж, няма дурных!* Лынькоў. *— Пэўне, што не адступяцца так, — разважліва згадзілася Васілёва маці. Куліна.. раптам нецярпліва адрэзала: — Няма дурных.* Мележ. *[Петрык:] Ён будзе Замылку бараніць, а я яму пра Замылку гаварыць? Няма дурняў!* Шынклер.

**2**. *У знач. вык. Часцей ужыв. ў спалучэнні з інф.* Не ашукаеш, бо хто-н. не такі бесталковы, каб рабіць што-н. *Ужо каля лесу яго аклікнуў вартавы і загадаў спыніцца. «Няма дурняў спыняцца!» — сам сабе сказаў Сайка і так драпануў у лес, што толькі вецер засвістаў каля вушэй.* Колас. *— Газету трэба вывесіць да нядзелі. — Ізноў хочаш, каб увапхнулі табе яе ў калодзезь. —Цяпер ужо няма дурных. Нанач здымаць буду.* Машара. *Няма дурных ехаць цяпер мясіць гразь.* Кузьмянкоў.

**НЯМ`А (НЕ БЫЛ`О) УГАМ`ОНУ** *на каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Нельга стрымаць, супакоіць, спыніць каго-н. **Сін.**: унімку

няма *на каго.* — *Няма на цябе ўгамону, бяссонны, — няласкава сустракае яна [свякруха] таго, хто ўвайшоў.* Мележ. — *Ах, чэрці раскосыя! — абурыўся ён, углядаючыся ў заячыя сляды. — Угамону на іх няма.* Хадкевіч.

**НЯМ`А ЧАГ`О <Б`ОГУ> ГРАШ`ЫЦЬ.** *У безас. ужыв. Разм.* Няма падстаў крыўдаваць на лёс, быць незадаволеным. **Сін**.: няма чаго бога гнявіць; што богу грашыць. *Каня маю аднаго — праўда, што добрага, няма чаго богу грашыць...* Зарэцкі. *Няма чаго богу грашыць — добрыя дзеці павырасталі. Ніхто бацькоў не цураецца,* Цяжкі. *Пажыла яна [Вячэрыха], няма чаго грашыць, семдзесят сем гадоў.* Брыль.

**НЯМ`А ЧАГ`О ГРАХ`У ТА`ЩЬ.** *У знач. пабочн. сл. Функц. не зам.* Не варта скрываць, трэба прызнацца. **Сін**.: грэшным дзелам; чаго граху таіць. *Хаця Сымон паціху і агрызаўся на такую знявагу сваёй прафесіі, але, няма чаго граху таіць, брала яго часам сумненне...* Лынькоў. *І, няма чаго граху таіць, новыя аграпрамысловыя аб'яднанні ў асобных раёнах нічога новага ці істотнага пакуль што ў работу гаспадарак не прынеслі.* Якавенка.

**НЯМ`А ЧАГ`О (Н`ЕЧАГА, ЧАГ`О) Б`ОГА ГНЯВ`ЩЬ.** *У знач. безас. ск. Разм.* Няма падстаў крыўдзіцца на лёс. **Сін**.: няма чаго <богу> грашыць; што богу грашыць. — *Ну, як жывяце, пан Адам? — Дзякую, Пятро Пятровіч... Добра жыву, няма чаго бога гнявіць.* Новікаў. *Не, няма чаго бога гнявіць, вяселле было — не горай, чым у людзей...* Гіль. *Жывём — і дзякуй, сэнк'ю, мерсі, — і нечага бога гнявіць: было б што есці, было б што піць — і большага не прасі...* Зуёнак. *Хваліцца дужа — няма чым, але і скардзіцца на што — чаго ж тут, як кажуць, бога гнявіць.* Лынькоў.

**НЯМА ЧАГО ТРАЦІЦЬ** *каму.* Гл. траціць

**НЯМ`А ЧАГ`О (ШТ`О) КАЗ`АЦЬ (СКАЗ`АЦЬ).** *У знач. пабочн. сл. Разм.* **1**. Сапраўды, няма падстаў сумнявацца. Ужыв. для пацвярджэння праўдзівасці таго, пра што паведамляецца. **Сін**.: апроч жартаў; нечага сказаць; нічога не скажаш; слоў няма; так <яно> і ёсць; што <і> казаць; што праўда то праўда. *Прыбытак немалы, — згадзіўся селянін, — няма чаго казаць. А толькі жывём мы ад зямлі, а не ад прыбыткаў.* Галавач. *У дзяўчыны паклоннікаў выбар багаты — расцудоўныя хлопцы, няма што казаць!* Дзяргай.

**2.** Выказванне абурэння кім-, чым-н., адмоўных адносін да каго-, чаго-н. *Мабыць, дзеля гэтай пацехі знарок і ўпіхаеце мяне ў тое пекла... Няма чаго казаць, добрыя бацькі..* Гарэцкі. *Няма што казаць: усцешыў мяне сынок, усцешыў — чаго на старасць прычакалася!* Ядвігін Ш. *[Сымон:] Няма чаго сказаць — багаты стол: бульба і вада, вада і бульба!* Купала.

**СЛ`ОЎ НЯМ`А.** *У знач. пабочн. сл. Разм.* Канечне, бясспрэчна; цалкам згодны. **Сін**.: апроч жартаў; нечага сказаць; нічога не скажаш; няма чаго казаць (у 1 знач.); так <яно> і ёсць; што <і> казаць; што праўда то праўда. *Станцыю будуем — слоў няма — справа важная, а ўсё ж кажуць, што чалавек самае галоўнае.* Броўка. *Ураджай мы вырасцім, слоў няма, цяпер ужо нішто не пашкодзіць.* Хадкевіч.

**СУХ`ОГА РУБЦ`А (СУХ`ОЙ Н`ІТКІ) НЯМ`А (НЕ БЫЛ`О, НЕ ЗАСТАЛ`ОСЯ)** *на кім. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. вельмі моцна прамок, змок. *Ты перадай Алене — хай хлопцам спірту дасць. Рубца сухога няма.* Шамякін. *Пакуль гаспадар і госць дайшлі да доміка Сцяпана Андрэевіча, на іх не было сухога рубца.* Гурскі. *Ды яшчэ, як на тое ліха, на дарозе каля самага дома залавіў дождж. Рубца сухога на ім [Цяўлоўскім] не засталося і на тым чалавеку, што падвозіў.* Калюга. *[Маслакоў:] Двое сутак лазілі па балотах, вымаклі ў вадзе ды расе, сухое ніткі.. не засталося.* Быкаў.

**ТВ`АРУ НЯМ`А (НЕ БЫЛ`О)** *на кім. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. вельмі бледны ад болю, хвалявання і пад. *Што з табою? Ты ж паглядзі на сябе, на табе твару няма.* Лынькоў. *Бедная Валечка! Яна і назад прыбегла. Твару на ёй няма. Ізноў пабегла шукаць невядома куды...* Няхай. *На немцу ад страху не было твару.* Карпюк. *Калі потым ляснік выйшаў з кабінета, на ім не было твару.* Сіняўскі.

**Т`ОЛЬКІ (АДНАГ`О) ПТУШ`ЫНАГА МАЛАК`А НЯМ`А (НЕ ХАП`АЕ, БРАК`УЕ)** *у каго, дзе. У безас. ужыв. Разм. Жарт.* Усяго ўволю, удосталь. **Сін**.: і паранага і варанага і так кускамі *ў каго, дзе. У хаце — хіба толькі птушынага малака няма.* Шамякін. *Пра Казіміра Ляшчынскага вяскоўцы гаварылі, што ў таго не хапае толькі птушынага малака.* Парахневіч. *І пажылі ж мы з Нэлечкай — ёсць што ўспомніць! Можна сказаць, аднаго птушынага малака бракавала.* Аношкін.

**ТУТ ЁСЦЬ ТУТ НЯМА.** Гл. тут.

**УН`ІМКУ НЯМ`А (НЕ БЫЛ`О)** *на каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Нельга стрымаць, супакоіць, спыніць каго-н. **Сін**.: няма ўгамону *на каго. Крокаў праз сотню чалавек падняў галаву ўгару: — Зноў [вароны] крычаць, унімку на іх няма!* Чорны. З *тыдзень унімку не было, жыць не давала [гаспадыня], поедам мяне ела.* Сачанка.

**ЦАН`Ы НЯМ`А** *каму, чаму. У безас. ужыв. Разм. Адабр.* Хто-н. ці што-н. заслугоўвае самай высокай ацэнкі, неацэнны па сваіх якасцях, вартасцях. *Што ты, Алеська, скажаш цяпер? Цаны няма Андрэю нашаму!* Брыль. *Панок падумаў, што карова, мусіць, адсапнулася, пакуль яго біў кашаль, і вылезла сама ля каменя на сухое. Карове*

*няма цаны...* Пташнікаў. *Гляньце, колькі дрэў са мною. Быццам роўныя яны, ды вось дрэўца, хоць малое, а яму няма цаны.* Броўка. — *Служый, служый, кажаш, хлопча, ваявай, ваявай, і ў Піцеры бый, а торбачку пусценькую дадому нясеш. — Тут, дзядзька, такое багацце, што яму цаны няма. Яго на ўсіх хопіць.* Грахоўскі.

**ЯБЛЫКУ НЯМА ДЗЕ ЎПАСЦІ.** Гл. упасці.

*НЯМАЗАНЫ* ● **СЯКІ-ТАКІ НЯМАЗАНЫ.** Гл. сякі.

*НЯПОЎНАЕ* ● **ВОКА НЯПОЎНАЕ** *ў каго.* Гл. вока.

*НЯПРАЎДАМІ* ● **<УСІМІ> ПРАЎДАМІ І НЯПРАЎДАМІ.** Гл. праўдамі.

*НЯРЭЗАНЫХ* ● **ЯК САБАК НЯРЭЗАНЫХ** *каго.* Гл. сабак.

*НЯСЕ* ● **БОГ НЯСЕ** *каго.* Гл. бог.

**БУРА НЯСЕ** *каго.* Гл. бура.

**ВЕЦЕР НЯСЕ** *каго.* Гл. вецер.

**ЛІХА НЯСЕ** *каго.* Гл. ліха.

*Куды* і пад. **ЛІХА НЯСЕ** *каго.* Гл. ліха.

**НЯЛЁГКАЯ НЯСЕ** *каго.* Гл. нялёгкая.

**НЯЧЫСТАЯ <СІЛА> НЯСЕ** *каго.* Гл. сіла.

**НЯЧЫСЦІК НЯСЕ** *каго.* Гл. нячысцік.

**ТРАСЦА НЯСЕ** *каго.* Гл. трасца.

**ХАЛЕРА НЯСЕ** *каго.* Гл. халера.

**ЧОРТ НЯСЕ** *каго.* Гл. чорт.

**ЯКАЯ БУРА НЯСЕ** *каго.* Гл. бура.

**ЯКІ ЧОРТ НЯСЕ** *каго куды.* Гл. чорт.

**ЯКОЕ ЛІХА НЯСЕ** *каго куды.* Гл. ліха.

*НЯСЕЯНАЕ* ● **НЯС`ЕЯНАЕ Р`ОДЗІЦЦА** *ў каго. У безас. ужыв. Разм. Асудж.* Хто-н. выдумвае, сцвярджае што-н. без апоры на факты. *У.Караткевіч у эсэ «Сцюдзёная вясна, або 1000 год і 7 дзён» з абурэннем піша пра некаторыя маўленчыя факты з той жа сферы «нясеянае родзіцца».* «Крыніца». [*Лепешаў*, с. 56: нясеянае родзіцца *ў каго.*]

*НЯСОЛАНА* ● **НЯСОЛАНА ХЛЯБАЎШЫ**. Гл. хлябаўшы.

*НЯСТАЧЫ* ● **СТО РУБЛЁЎ НЯСТАЧЫ.** Гл. рублёў.

*НЯСУЦЬ* ● **КУДЫ ВОЧЫ НЯСУЦЬ.** Гл. вочы.

**КУДЫ НОГІ НЯСУЦЬ.** Гл. ногі.

**НОГІ НЕ НЯСУЦЬ** *каго.* Гл ногі.

**НОГІ НЯСУЦЬ** *каго.* Гл. ногі.

**ЧЭРЦІ НЯСУЦЬ** *каго.* Гл. чорт.

*НЯЎЗБРОЕНЫМ* ● **НЯЎЗБРОЕНЫМ ВОКАМ.** Гл. вокам.

*НЯЎРОКАМ* ● **НЯЎРОКАМ КАЖУЧЫ.** Гл. кажучы.

*НЯХАЙ* ● **НЯХАЙ БОГ КРЫЕ.** Гл. бог.

**НЯХАЙ САРОЧКА НЕ ЧАПАЕ** *каго.* Гл. сарочка.

*НЯЧЫСТАЯ* ● **НЯЧЫСТАЯ СІЛА.** Гл. сіла.

**НЯЧЫСТАЯ <СІЛА> ГОНІЦЬ** *каго.* Гл. сіла.

**НЯЧЫСТАЯ СІЛА НОСІЦЬ** *каго дзе.* Гл. сіла.

**НЯЧЫСТАЯ <СІЛА> НЯСЕ** *каго.* Гл. сіла.

**НЯЧЫСТАЯ СІЛА СЯДЗІЦЬ** *у кім.* Гл. сіла.

**ЦЬФУ ТЫ НЯЧЫСТАЯ СІЛА.** Гл. цьфу.

**ЯКАЯ НЯЧЫСТАЯ СІЛА.** Гл. сіла.

*НЯЧЫСТЫ* ● **НЯЧ`ЫСТЫ (-АЯ, ЫЯ) НА РУК`У.** *Вык. і азн. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Схільны да крадзяжу, махлярства. *Былы ляснічы, выпівака, нячысты на руку, залічыўшы яе [Марыну] у штат лясніцтва, зрабіў хатняй работніцай.* Шамякін. *Мірон гаворыць усім і ўсюды, што дзед у яго быў нячысты на руку.* Макарэвіч. *Не апраўдваецца Гапка, не вылузваецца са скуры, як гэта зазвычай робяць нячыстыя на руку людзі.* Рубанаў.

**НЯЧЫСТЫ ДУХ.** Гл. дух.

*НЯЧЫСЦІК* ● <u>*Куды, адкуль, як*</u> і інш. **НЯЧ`ЫСЦІК Г`ОНІЦЬ** *каго. У безас. ужыв. Ужыв. у пытальных ск. Праст. Неадабр.* (Куды, чаго і пад.) хто-н. ідзе, рухаецца? **Сін.**: бог нясе *каго*; бура нясе *каго*; вецер нясе *каго*; ліха нясе *каго*; чорт нясе *каго.* — *Куды вас нячысцік гоніць? — хмура сказаў ён [Андрэй]. — Бяжыце назад. Міны, снарады на кожным кроку.* Левановіч. *Шмат людзей на лаўках едзе, той чытае, той гамоніць, і ніяк не ўцяміць Федзя — як жа іх нячысцік гоніць?* Крапіва.

**НЯЧ`ЫСЦІК Н`ОСІЦЬ** *каго дзе. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Хто-н. недарэчы ходзіць, бадзяецца дзе-н. **Сін.**: каланіца носіць *каго дзе, калі*; ліха носіць *каго дзе*; нялёгкая носіць *каго дзе*; нячыстая сіла носіць *каго дзе*; халера носіць *каго дзе*; хвароба носіць *каго дзе*; чорт носіць *каго дзе*; чэрці душаць *каго дзе. Дзе гэта цябе нячысцік носіць?* Асіпенка.

**НЯЧ`ЫСЦІК НЯС`Е** *каго. У безас. ужыв. Праст.* Хто-н. недарэчы, не ў пару прыходзіць, з'яўляецца. Выказванне незадавальнення ў сувязі з прыходам нежаданага госця, наведвальніка. **Сін.**: ліха гоніць *каго*; ліха нясе *каго*; нялёгкая гоніць *каго*; нялёгкая нясе *каго*; нячыстая <сіла> гоніць *каго*; нячыстая <сіла> нясе *каго*; трасца нясе *каго*; халера нясе *каго*; чорт гоніць *каго*; чорт нясе *каго. [1-ы падарожны:] А гэта што зноў за праява: каго нячысцік нясе так?* Купала. — *Каго яшчэ нячысцік нясе? — паціху буркнуў Эраст Маркавіч.* Аношкін.

**НЯЧ`ЫСЦІК ЯГ`О (Я`Е, `ІХ, ЦЯБ`Е, В`АС) В`ЕДАЕ.** *Часцей у знач. галоўн. ск. Праст. Неадабр.* Невядома. **Сін.**: агонь яго ведае; алах яго ведае; бог яго ведае; вятры яго ведаюць; кадук яго ведае; ліха яго

ведае; немач яго ведае; пярун яго ведае; трасца яго ведае; халера яго ведае; хвароба яго ведае; хрэн яго ведае; хто яго ведае; чамярыца яго ведае; чорт яго ведае. *[Кацярына:] І нячысцік яго ведае, адкуль гэта ўсё ў яго бярэцца?* Купала.

**ЯК`І НЯЧ`ЫСЦІК.** *У знач. дзейн. Праст. Неадабр. Часцей ужыв. у пытальных ск.* Хто ж гэта такі (робіць, зрабіў што-н.). **Сін.**: якая нячыстая сіла; які чорт. *[Мікіта:] Дзе той Спічыні? Які яго нячысцік выкруціў у гэтую небяспечную для мяне хвіліну?* Купала. *«Каб яно ўсё згарэла!» – лаяўся Войцік. І які нячысцік наслаў на яго гэтага здрадніка!* Быкаў.

**О**

*ОБЛАЦЭХ* ● **ЦЯМ НА ВАДА ВА ОБЛАЦЭХ.** Гл. вада.

*ОЙЧА* ● **ЯК `ОЙЧА Н`АШ** <u>*ведаць, запомніць*</u> і пад. *Акал. Разм.* Вельмі добра, цвёрда. **Сін.**: удоўж і ўпоперак (у 2 знач.); як аблупленага; як свае пяць пальцаў; як табліцу множання. *Нават калі ён зноў браў яе ў рукі, дык праглядаў толькі апавед, і пры канцы ведаў кніжачку як ойча наш.* Астравец. — *Лаянку яго мы на памяць ведаем. — Як ойча наш.* Дуброўскі. *Вучань мусіў як ойча наш засвоіць, што да 1919 года, калі адбылося абвяшчэнне БССР, беларусы не мелі сваёй дзяржаўнасці…* Арлоў. *Улёткі ж Барыс ужо на памяць ведае. Падымі сярод ночы – як ойча наш прачытае*! Якавенка. *Аўтар пра сваіх герояў павінен ведаць усё – як ойча наш, пралічыць і памятаць кожную драбязу…* Федарэнка.

*ОПЕРЫ* ● **З ДРУГ`ОЙ `ОПЕРЫ.** *Вык. Разм. Жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета і дзейн.-займ. *гэта.* Тое, што не адносіцца да справы, да тэмы. **Сін**.: не з той оперы. — *Значыць, гарэлачная справа і міліцыянер з другое оперы? — Значыць, з другое, лейтэнант.* А.Жук. — *Ці ўзбагачаюць нас духоўна навуковыя метады пазнання? Ці не разбураюць яны штосьці духоўнае? — А гэта пытанне зусім з другой оперы...* Гігевіч. — *А імкненне мець сабе помнікі пры жыцці і пасля смерці — хіба ж гэта не жаданне ўвасобіцца ў граніт, жалеза, у скалы? — Ну, гэта, хлопча, ужо з другой, як кажуць, оперы.* Мік. Ткачоў.

**НЕ З Т`ОЙ `ОПЕРЫ.** *Вык. Разм. Жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Тое, што не адносіцца да справы, да тэмы. **Сін**.: з другой оперы. *Гэта — здорава можна сказаць, знаходка... Толькі наўрад ці ўхваляць: надта ж адыёзны гэты Дзяржыморда. Не тыя часы, скажуць, не з той оперы...* Блакіт. — *Не з той оперы, Алёша!.. — Я, мілая студэнтка, больш забыўся, чым ты*

*ведаеш...* Шашкоў.

## П

*ПААБІВАЦЬ* ● **ПААБІВ`АЦЬ ПАР`ОГІ** *чые, каго, чаго. Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Настойліва папахадзіць куды-н., просячы, дамагаючыся чаго-н. *[Зоська:] Я пайду папрашу іх, можа...[Лявон:] Не трэба! Не ідзі! Годзе ўжо бацька твой спіны нагнуўся і парогаў паабіваў.* Купала. *Ну, а калі хто мяне першы зачэпіць, тут ужо вы-ба-чайце... Начальству ўсяму парогі паабіваю і ўсё-такі давяду, што ён – сволач.* Крапіва.

*ПАБАЧЫЦЬ* ● **ПАБ`АЧЫЦЬ (ПАГЛЯДЗ`ЕЦЬ) СВ`ЕТ (-У).** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адчуць палёгку, пазбавіўшыся ад гора, жыццёвых цяжкасцей і пад. **Сін**.: дыхаць вольна; уздыхнуць вольна; уздыхнуць на поўныя грудзі. *Будзе хутка час, калі будзеце і на самалёце лятаць, але пакуль што павінны пралажыць дарогу, каб хоць на конях можна было выехаць з гэтага балота ды пабачыць свет...* Чарот. *Усё б жыццё аддаў, здаецца, каб толькі свет пабачыць, каб хоць трошкі жыццё сваё палепшыць.* Каваль. *[Садовіч:] Згодзен! Чым чорт не арау, тым і сеяць не стау. Хоць свету пабачым.* Колас. *Дык збірайся... Паглядзі хоць свету за нас.* Бічэль-Загнетава.

*ПАБЕГЛІ* ● **МУРАШКІ ПАБЕГЛІ ПА ЦЕЛЕ** *ў каго, каго, чыім.* Гл. мурашкі.

*ПАБІЦЦА* ● **ПАБІЦЦА АБ ЗАКЛАД.** *Зак. да* **БІЦЦА АБ ЗАКЛАД.**

*ПАБЛЫТАЎ* ● **ЧОРТ ПАБЛЫТАЎ** *каго.* Гл. чорт.

*ПАБОІШЧА* ● **МАМ`АЕВА ПАБ`ОІШЧА.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* **1**. Вялікая сварка, бойка. *О, каша заварваецца, задаволена паціраў рукі Андрэй. От жа мамаева пабоішча пачынаецца!* Блакіт.

**2**. Поўны беспарадак, неразбярыха. **Сін**.: вавілонскае стоўпатварэнне; садом і гамора; страсці-мардасці; сыр-бор; шурум-бурум. **Ант**.: ціш ды гладзь. *Калі ласка, палюбуйцеся на гэтага героя, які ўчыніў у класе мамаева пабоішча!* Шамякін.

*ПАБОЙСЯ* ● **ПАБОЙСЯ БОГА.** Гл. бойся.

*ПАБРАЎ* ● **<І, УС`Е> КР`ОШКІ (КР`ОШАЧКІ, КР`ОПЕЛЬКІ) ПАБР`АЎ (ПАДАБР`АЎ)** *чые, каго, у каго, з каго. М., ж., н. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі падобны да каго-н. (з бацькоў ці родных). **Сін**.: волас у волас <голас у голас; на адзін твар. *— А сынок у вас — цельпучок ладны. З вас і крошкі пабраў, — жартавала старая.*

Сабаленка. *Косцік.. усе яе кропелькі пабраў. Такі ж лупаты, такі ж, мусіць, і шалапутны, як Нюрка.* Арабей. *Зірні, Даніла: такі ж самы, як ты, і крошачкі пабраў, і губкі гэтак жа зацяў...* Колас. *Дзядзька Міхалка, які і крошачкі падабраў прадзеда, апошні з гэтай дынастыі.* Макарэвіч. *[Дзяўчынка] спала і смачна цмокала ружовымі губкамі. — Ну, як?.. — І крошкі ў цябе падабрала...* Далідовіч. *Шырокі Цімох у плячах, тонкі ў поясе. Кропелькі бацькавы пабраў!* Міськo.

**ЧОРТ БЫ ЯГО ПАБРАЎ!** Гл. чорт.

*ПАБУДАВАЦЬ* ● **ПАБУДАВАЦЬ НА ПЯСКУ** *што. Зак. да* **БУДАВАЦЬ НА ПЯСКУ** *што.*

*ПАБЯГУШКАХ* ● **НА ПАБЯГ`УШКАХ.** *Разм.* **1**. *Недапас. азн.* Для дробных паслуг, нескладаных даручэнняў. **Сін**.: на пасылках (у 1 знач.). *Сямёна Марчанку пачалі бачыць ля панскага прыганятага Шмульца. Чалавек зрабіўся пры ім нейкім як бы хлопчыкам на пабягушках.* Сачанка. *Сорак год, а ўсё яшчэ — як хлопчык на пабягушках...* Гігевіч.

**2**. *у каго. Вык. і акал.* У поўным чыім-н. падпарадкаванні, у залежным становішчы (быць). **Сін**.: на пасылках (у 2 знач.). *Шчэрбіч ледзь не крыкнуў, што працаваць з ворагам, быць у яго на пабягушках ніколі не згодзіцца.* Лужанін. «*Нясоладка, мабыць, жывецца, — падумаў Міхал. — А хто вінаваты? Не можа паставіць сябе — усё на пабягушках...*» Карпаў.

*ПАБЯЖЫЦЬ* ● **У ЛЕС НЕ ПАБЯЖЫЦЬ**. Гл. уцячэ.

*ПАБЯРЫ* ● **ЧОРТ ПАБЯРЫ!** Гл. чорт.

*ПАВА* ● **НІ П`АВА НІ ВАР`ОНА.** *Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. *асобы.* Той, хто адышоў ад адных і не далучыўся да другіх. *Прайшла [паэтка], паглядаючы ў бакі. – Ні пава ні варона, – усміхнуўся Кулік.* Гурскі. *Праз тыдзень вырас «гмах» на сотні дзве старонак, а з «гмахам» – дзіўны птах: ні пава ні варона.* Багун.

*ПАВАДЗІЦЬ* ● **ПАВАДЗ`ІЦЬ ЗА Н`ОС** *каго. Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Уводзіць у зман, ашукваць каго-н. неаднаразова і звычайна працяглы час. **Сін.:** задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); запудрыць мазгі *каму*; навешаць лапшы на вушы *каму*; пагуляць у ката і мышку. *Найперад яна [Таня] хацела пайсці кудынебудзь на ўвесь вечар, каб павадзіць Кузьму на нос, бо ён таго варты.* Колас. *Трэба шэршня за нос павадзіць, каб і дзесятаму заказаў, як жонкі купляць.* Купала. *Яніна і яшчэ засталася б падурыць галаву хлопцам ды павадзіць іх за нос. Яна ўсю ноч прагуляла б без сну, ды заўтра выходзілі жаць…* Мурашка. *Прабач, я цябе трошкі, груба кажучы, павадзіў за нос.* Шамякін. *Чакайце ж!*

*Прыйдзе каза да воза! Ну і паваджу ж я вас за насы, хлопцы!* Гіль. *Цяпер Надзея не мела намеру заводзіць раман. Проста паводзіць за нос – і ўсё. Хай [хлопец] не думае пра сябе немаведама што...* Блакіт.

*ПАВАДКУ* ● **ІСЦІ НА ПАВАДКУ** *ў каго, каго, чым.* Гл. ісці.

**НА ПАВАДКУ** *ў каго.* Гл. повадзе.

**ХАДЗІЦЬ НА ПАВАДКУ** *ў каго.* Гл. хадзіць.

*ПАВАЛІЦЦА* ● **АД ВЕТРУ ПАВАЛІЦЦА.** Гл. валіцца.

*ПАВАЛЮСЯ* ● **ПУСЦІ ПАВАЛЮСЯ.** Гл. пусці.

*ПАВАРОТ* ● **АД ВАР`ОТ ПАВАР`ОТ** *каму. У знач. дзеясл. вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рашуча, катэгарычна адмовіць каму-н. у чым-н. *Ты прыйдзеш да ваенкома, а ён табе — «ад варот паварот».* Машара. *Вунь ты якая! Дамок зрубіў — дык не патрэбен ужо! Цяпер можна і ад варот паварот. Ну, ну.* Калодзежны.

**АД ВАР`ОТ ПАВАР`ОТ** <u>*даць, атрымаць*</u> і пад. *Мн. не ўжыв. Дап. Разм.* Катэгарычная адмова. *Глядзелі-глядзелі бацькі нявесты на жаніха, дый далі сватам ад варот паварот.* Сачанка. *Дзяўчына аказалася на дзіва разумная і адразу ж дала жаніху ад варот паварот.* «ЛіМ».

*ПАВАРОТАХ* ● **ЛЯГЧЭЙ НА ПАВАРОТАХ.** Гл. лягчэй.

*ПАВАРОЧАЦЬ* ● **ПАВАРОЧАЦЬ МАЗГАМІ.** *Зак. да* **ВАРОЧАЦЬ МАЗГАМІ.**

*ПАВАРОЧВАЕЦЦА* ● **ЯЗЫК НЕ ПАВАРОЧВАЕЦЦА** *ў каго.* Гл. язык.

**ЯЗЫК ПАВАРОЧВАЕЦЦА** *ў каго.* Гл. язык.

*ПАВАРОЧВАЦЦА* ● **ПАВАР`ОЧВАЦЦА СП`ІНАЙ** *да каго, да чаго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Праяўляць поўную абыякавасць да каго-, чаго-н., пераставаць звяртаць увагу на каго-, што-н. **Сін**.: махнуць рукой *на каго, на што*; паварочваць спіну *да каго, да чаго*; ставіць крыж *на кім, на чым, над чым.* **Ант**.: паварочвацца тварам *да каго, да чаго. Заходнееўрапейцы ўсё часцей паварочваюцца спінай да рупнасці Рона.* «Полымя». *Ты ж зусім не прыстасавана да жыцця. Таму яно заўсёды да цябе спінай паварочваецца.* Шлег. **ПАВЯРНУЦЦА СПІНАЙ** *да каго, да чаго. Зак. Трэба заўважыць, што не пашанцавала яму і ў картах. Ці то фартуна павярнулася спінай, ці то кваліфікацыя давалася цяжка, але часта Махвіц прайграваў.* «Звязда».

**ПАВАР`ОЧВАЦЦА ТВ`АРАМ** *да каго, да чаго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, сукупнасці асоб ці абстр. прадмета. Праяўляць цікавасць, увагу да каго-, чаго-н. **Ант**.: махнуць рукой *на каго, на што*; паварочвацца спінай *да каго, да чаго*; паварочваць спіну *да каго, да чаго*; ставіць крыж *на кім, на чым, над чым.* **ПАВЯРНУЦЦА ТВАРАМ** *да каго, да чаго. Зак. Вось што я вам скажу,*

*таварышы. Пачынаць мы будзем з таго, што да людзей тварам павернемся...* Краўчанка. *Павярнуліся тварам да камп'ютэрнага навучання моладзі і педВНУ рэспублікі. Цяпер у іх гэтай навукай авалодваюць студэнты ўсіх факультэтаў.* «Настаўн. газ.» *Дземідзецкі адчуў, што фартуна, нарэшце, павярнулася да яго сваім тварам.* Новікаў.

*ПАВАРОЧВАЦЬ* ● **ПАВАРОЧВАЦЬ АГЛОБЛІ.** Гл. заварочваць.

**ПАВАР`ОЧВАЦЬ СП`ІНУ** *да каго, да чаго. Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Праяўляць поўную абыякавасць да каго-, чаго-н., пераставаць звяртаць увагу на каго-, што-н. **Сін**.: махнуць рукой *на каго, на што*; паварочвацца спінай *да каго, да чаго,* ставіць крыж *на кім, на чым, над чым.* **Ант**.: паварочвацца тварам *да каго, да чаго.* **ПАВЯРНУЦЬ СПІНУ** *да каго, да чаго. Зак. Умяшанне трэцяй асобы [дзіцяці] у «вольны саюз» вельмі не спадабалася Лукавіцыну і ён павярнуў быў сваю шляхетную спіну. Але дзяўчына.. раптам зрабілася дзёрзкаю і такою ж упартаю ў сваіх дамаганнях, як і трэці саюзнік.* Крапіва.

**ПАВАР`ОЧВАЦЬ ТВ`АРАМ** *каго, што да чаго. Разм. Незак.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Прымушаць каго-, што-н. праявіць увагу, цікавасць да чаго-н. *[Пятроў:] І не трэба нас увесь час паварочваць тварам да мінулага. Курганы, могільнікі, гарадзішчы...* Петрашкевіч. **ПАВЯРНУЦЬ ТВАРАМ** *каго, што да чаго. Зак. Блізнюк спачатку сумеўся: такі вэрхал па яго паперцы? Прызнацца, чакаў, меншага: каб ягадскую школу павярнулі тварам да калгаса. І больш нічога.* Ермаловіч. *І тады, каб павярнуць сход тварам да праўды, прыйшлося браць слова прадстаўнікам вышэйстаячых органаў, растлумачваць розніцу паміж памылкай і злоўжываннем.* «Звязда».

*ПАВАРУХНУЦЬ* ● **<І> ПАЛЬЦАМ НЕ ПАВАРУХНУЦЬ.** Гл. варухнуць.

*ПАВАРУШЫЦЬ* ● **<І> ПАЛЬЦАМ НЕ ПАВАРУШЫЦЬ.** Гл. варухнуць.

**ПАВАРУШЫЦЬ ГАЛАВОЙ.** *Зак. да* **ВАРУШЫЦЬ ГАЛАВОЙ**.

**ПАВАРУШЫЦЬ МАЗГАМІ.** *Зак. да* **ВАРУШЫЦЬ МАЗГАМІ.**

*ПАВАСТРЫЦЬ* ● **ПАВАСТРЫЦЬ ЯЗЫК.** *Зак. да* **ВАСТРЫЦЬ ЯЗЫК.**

*ПАВЕРКУ* ● **НА ПАВ`ЕРКУ** *акязвацца, выходзіць* і пад. *Акал. Разм.* Сапраўды, фактычна. **Сін**.: на самай справе. *[Ігар:] А я, бабуля, як аказалася на паверку, таксама не ўломак, за ўсю вучобу і практыку ні разу не хварэў.* Зуб. *Пайгода [фашысты] трубілі, што ўжо Маскву ўзялі, а на паверку выйшла, што Масквы яны і ў вочы не бачылі.* Курто.

*ПАВЕРХНІ* ● **КОЎЗАННЕ ПА ПАВЕРХНІ.** Гл. коўзанне.

**КОЎЗАЦЦА ПА ПАВЕРХНІ.** Гл. коўзацца.

**ЛЯЖАЦЬ НА ПАВЕРХНІ.** Гл. ляжаць.

**НА ПАВ`ЕРХНІ**. *Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Лёгка заўважаецца, усведамляецца. **Сін.**: ляжаць на паверхні. *Цішыня гэта – на паверхні. Грамадства зрушылася з месца, і ніхто яго не спыніць...* Шаўцоў. *Якое звяно ў ланцужку сістэмы ўрокаў найчасцей выпадае, не дае належнай эфектыўнасці? Адказ на гэтае пытанне на паверхні...* «Настаўн. газ.» *Дзіўная ўсё ж такі істота чалавек – не навучыцца да старасці адрозніваць малое ад вялікага, добрае ад кепскага, а здаецца, што ўсё так проста, усё на паверхні, а вось жа...* Дамашэвіч.

**ТРЫМАЦЦА НА ПАВЕРХНІ** <*чаго*>. Гл. трымацца.

*ПАВЕРХНЮ* ● **ВЫПЛЫВАЦЬ НА ПАВЕРХНЮ.** Гл. выплываць.

*ПАВЕРЫЦЬ* ● **НЕ ПАВЕРЫЦЬ <СВАІМ> ВАЧАМ.** *Зак. да* **НЕ ВЕРЫЦЬ <СВАІМ> ВАЧАМ.**

**НЕ ПАВЕРЫЦЬ <СВАІМ> ВУШАМ.** *Зак. да* **НЕ ВЕРЫЦЬ <СВАІМ> ВУШАМ.**

*ПАВЕСІЦЦА* ● **ПАВЕСІЦЦА НА ШЫЮ** *каму. Зак. да* **ВЕШАЦЦА НА ШЫЮ** *каму.*

*ПАВЕСІЦЬ* ● **ПАВЕСІЦЬ ГАЛАВУ.** *Зак. да* **ВЕШАЦЬ ГАЛАВУ.**

**ПАВ`ЕСІЦЬ ЗАМ`ОК НА Р`ОТ (НА Г`УБЫ)** *каму. Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымусіць каго-н. маўчаць, не даць гаварыць. **Сін.**: забіваць дух *каму*; закрываць рот *каму*; замазаць рот *каму*; затыкаць горла *каму* (у 1 знач.); затыкаць рот *каму*; наступаць на язык *каму*; укараціць язык *каму*; язык завязаць *каму*. *Няхай жыве народ у думцы, у згодзе, у бунце, яму замок на рот павесіць не спрабуйце.* Барадулін.

**ПАВЕСІЦЬ НОС.** *Зак. да* **ВЕШАЦЬ НОС.**

**ПАВЕСІЦЬ НОС НА КВІНТУ.** *Зак. да* **ВЕШАЦЬ НОС НА КВІНТУ.**

**ПАВ`ЕСІЦЬ <САБ`Е> ЗАМ`ОК НА Р`ОТ (НА Г`УБЫ).** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымусіць сябе маўчаць, не гаварыць што-н. **Сін.**: наступаць сабе на язык; праглынуць язык; прыкусваць язык; прышчаміць язык. *Але хіба можна забыцца на тое, што ты тады павесіў быў замок на губы, калі я скрываў Кірылу Вялічку...* Чорны.

*ПАВЕСЦІ* ● **І ВУХАМ НЕ ПАВЕСЦІ.** *Зак. да* **І ВУХАМ НЕ ВЕСЦІ.**

**ПАВ`ЕСЦІ Р`ЭЙ.** *Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць кіраваць якой-н. справай, верхаводзіць, стаць завадатарам чаго-н. *Грыгор борзда павёў рэй: – Хлопцы, адвернем наўперад брычку. Ну, жыва!* Колас. *– Дык зачытваю, спадары, ліст, – павёў рэй далей Аўторак, падносячы блізка да твару белы аркушык.* Далідовіч. *І спатрэбіцца месяцы, каб вярнулася здароўе. Каб Галя*

*магла перагаварыць з сябрамі, якія самі прыйдуць да яе, спадзеючыся – яна павядзе рэй.* Карпаў.

*ПАВЕТРА* ● **З ПАВ`ЕТРА**. *Акал. Разм. Часцей неадабр.* Невядома з чаго і раптоўна (зарабіць, займець і пад.). *Ах, самахват, які ты кемлівы… З паветра грошы выцадзіў.* І.Валасевіч. *Увогуле, не трэба перааацэньваць пытанні транзіту, так званага заробку што называецца – «з паветра».* «Звязда». *Улада не сама па сабе паяўляецца на свет, не з паветра ўзнікае.* «ЛіМ».

**НА <СВ`ЕЖАЕ> ПАВ`ЕТРА** <u>выходзіць (выйсці) выносіць (вынесці)</u> і пад. *Акал. Функц. не зам.* На вуліцу, на двор. *Віктару стала кепска, і ён выйшаў на свежае паветра.* Гаўрылкін. *Блізнюк рашыў выйсці перад сном на свежае паветра.* Ермаловіч. *Доктар сказаў выносіць цябе на паветра.* Пестрак.

**ПСАВАЦЬ ПАВЕТРА.** Гл. псаваць.

**ПУСКАЦЬ У ПАВЕТРА** *што.* Гл. пускаць.

**ТРЭСЦІ ПАВЕТРА.** Гл. трэсці.

**УЗЛЯТАЦЬ У ПАВЕТРА.** Гл. узлятаць.

<u>*Патрэбны, неабходны*</u> **ЯК ПАВ`ЕТРА.** *Акал. Функц. не зам.* Вельмі. *Яна, дысертацыя, напісана на тэму: «Аб урадлівасці глебаў БССР». Мне думаецца, што такая кніжка патрэбна для Беларусі як паветра.* Пестрак. «*Патрэбен як паветра», — гаворым мы часам, жадаючы сказаць пра што-небудзь вельмі неабходнае.* «Звязда». *Справядлівасць мне патрэбна як паветра.* Радкевіч.

*ПАВЕТРАНЫХ* ● **БУДОЎЛЯ ПАВЕТРАНЫХ ЗАМКАЎ.** Гл. будоўля.

*ПАВЕТРАНЫЯ* ● **БУДАВАЦЬ ПАВЕТРАНЫЯ ЗАМКІ.** Гл. будаваць.

**ПАВЕТРАНЫЯ ЗАМКІ.** Гл. замкі.

*ПАВЕТРЫ* ● **ВІСЕЦЬ У ПАВЕТРЫ.** Гл. вісець.

**ВІСЕЦЬ У ПАВЕТРЫ** *калі.* Гл. вісець.

**НА СВ`ЕЖЫМ (В`ОЛЬНЫМ) ПАВ`ЕТРЫ.** *Акал. Функц. не зам.* Не ў памяшканні, на вуліцы (быць, знаходзіцца, рабіць што-н.) **Сін**.: пад адкрытым небам; пад богавай страхой (у 1 знач.); пад голым небам. *Давайце снедаць, а забаўкі прадоўжым на свежым паветры...* Кавалёў. *На свежым паветры зрабілася лягчэй.* Новікаў. *[Карнейчык:] Падначую дзе-небудзь на мурайцы з начлежнікамі. Дыхаць там лягчэй на вольным паветры.* Крапіва.

**ПАХНЕ ПОРАХАМ <У ПАВЕТРЫ>.** Гл. пахне.

*ПАВЁЎ* ● **І ВОКАМ НЕ ПАВЁЎ.** Гл. вядзе.

*ПАВІННАЙ* ● **З ПАВ`ІННАЙ** <u>*прыходзіць, ісці*</u> і пад. *Акал. Функц. не зам.* Каб прызнацца ў сваёй віне; з пакаяннем. *Косараў папрасіў аркуш паперы, ручку. На юрыдычнай мове гэта называецца яўка з павіннай.*

*Хоць якая там яўка: ухапілі-такі ментуза, цяпер не выслізне.* «Звязда». *Па вопыту свайму ведаў Паісій, што ў такія менавіта моманты слабага духу людзі каюцца, адкрываюць свае страшныя тайны, прыходзяць з павіннай.* Хомчанка. *Малодшы Барылка, Сяргей, кончыў дзевяць класаў. Позні сын.* Той, *які прыйшоў з павіннай у міліцыю.* А.Жук.

*ПАВІНЫ* • **РАСПУСКАЦЬ <ПАВІНЫ> ХВОСТ.** Гл. распускаць.

*ПАВІСАЦЬ* • **ПАВІСАЦЬ У ПАВЕТРЫ.** Гл. вісець.

*ПАВІСНУЦЬ* • **ПАВІСНУЦЬ НА ВАЛАСКУ.** *Зак. да* **ВІСЕЦЬ НА ВАЛАСКУ.**

**ПАВІСНУЦЬ НА ШЫІ** *ў каго, чаго, чыёй. Зак. да* **ВІСЕЦЬ НА ШЫІ** *ў каго, чаго, чыёй.*

**ПАВІСНУЦЬ ПАМІЖ НЕБАМ І ЗЯМЛЁЙ.** *Зак. да* **ВІСЕЦЬ ПАМІЖ НЕБАМ І ЗЯМЛЁЙ.**

**ПАВІСНУЦЬ У ПАВЕТРЫ.** *Зак. да* **ВІСЕЦЬ У ПАВЕТРЫ.**

*ПАВОДЗІЦЬ* • **ПАВ`ОДЗІЦЬ СЯБ`Е.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дзейнічаць якім-н. чынам, прытрымлівацца якой-н. лініі паводзін. **Сін**.: трымаць сябе (у 2 знач.). *Добры цяпер намеснік у Сяргея Мажэйкі, — падумаў Салаўёў. Яму падабалася, як паводзіць сябе Лявончык.* Шахавец. *З рознымі людзьмі Гарлахвацкі паводзіць сябе па-рознаму.* Шкраба. *На крутых віражах жыцця чалавек часам паводзіць сябе не па правілах.* Дамашэвіч.

*ПАВУКА* • **З'ЕСЦІ ПАВУКА.** Гл. з'есці.

*ПАВЫЛАЗІЛІ* • **ВОЧЫ ПАВЫЛАЗІЛІ** *ў каго, чые.* Гл. вочы.

*ПАВЫЛЯТАЦЬ* • **ПАВЫЛЯТ`АЦЬ З ГНЯЗД`А** *якога, чыйго. Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пакінуць родны дом, становячыся самастойнымі ў жыцці. Пра ўсіх сваіх дзяцей. *Дзеці рана павылятаалі з бацькоўскага гнязда, не вярнуць.* Быкаў.

*ПАВЫРАСТАЛІ* • **РОГІ ПАВЫРАСТАЛІ.** Гл. рогі.

*ПАВЫСІЦЬ* • **ПАВЫСІЦЬ ГОЛАС** *на каго. Зак. да* **ПАВЫШАЦЬ ГОЛАС** *на каго.*

*ПАВЫСЫХАЛА* • **<МАТЧЫНА> МАЛАКО НА ГУБАХ НЕ ПАВЫСЫХАЛА** *ў каго.* Гл. малако.

*ПАВЫСЫХАЛІ* • **МАЗГІ ПАВЫСЫХАЛІ** *ў каго.* Гл. мазгі.

*ПАВЫЦЯГВАЦЬ* • **УСЕ ГІЗУНТЫ ПАВЫЦЯГВАЦЬ** *з каго. Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Неаднаразова і працяглы час памучыць каго-н. празмернымі патрабаваннямі. *Колькі [Валерыя] памэнчылася з ім, каб Лёнька стаў сённяшнім Лёнькам. Усе гізунты з настаўнікаў павыцягваў, як Марыя Міхайлаўна кажа.* Гіль. *Унук, каб ён спрах, такі ўнук! Ад такога ўнука плечы мокрымі робяцца і галаве млосна! Усе гізунты павыцягваў! Усё яму не так, усё не гэтак…*

Дранько-Майсюк.

*ПАВЫШАЦЬ* ● **ПАВЫШ`АЦЬ Г`ОЛАС** *на каго. Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаворачы з раздражненнем, гучней, чым звычайна, прабіраць каго-н. **Сін**.: падымаць голас (у 2 знач.). *Ніхто ніколі не чуў, каб яна [цётка Маша] калі-небудзь павышала голас ці злавалася...* Броўка. **ПАВЫСІЦЬ ГОЛАС** *на каго. Зак. Тхарыны тварык следчага зноў перасмыкнуўся, але, здаецца, ён умеў валодаць сабой. Ён нават не павысіў голасу.* Быкаў.

*ПАВЫШАЮЦЦА* ● **АКЦЫІ ПАВЫШАЮЦЦА** *чые, каго.* Гл. акцыі.

*ПАВЯДУЦЬ* ● **КУДЫ ВОЧЫ ПАВЯДУЦЬ.** Гл. вочы.

**КУДЫ НОГІ ПАВЯДУЦЬ.** Гл. ногі.

*ПАВЯРНУЦЦА* ● **ПАВЯРНУЦЦА СПІНАЙ** *да каго, да чаго. Зак да* **ПАВАРОЧВАЦЦА СПІНАЙ** *да каго, да чаго.*

**ПАВЯРНУЦЦА ТВАРАМ** *да каго, да чаго. Зак. да* **ПАВАРОЧВАЦЦА ТВАРАМ** *да каго, да чаго.*

*ПАВЯРНУЦЬ* ● **ПАВЯРНУЦЬ АГЛОБЛІ.** *Зак. да* **ПАВАРОЧВАЦЬ АГЛОБЛІ**.

**ПАВЯРН`УЦЬ К`ОЛА ГІСТ`ОРЫІ НАЗ`АД.** *Зак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. сукупнасці асоб ці абстр. прадмета. Прыпыніць заканамерны ход гістарычнага развіцця, вярнуцца да мінулага. *Тыя басмачы дваццатых-трыццатых гадоў у Таджыкістане не павярнулі кола гісторыі назад.* «Беларусь». *Няма такой сілы, якая павярнула б кола гісторыі назад.* Гурскі.

**ПАВЯРНУЦЬ СПІНУ** *да каго, да чаго. Зак. да* **ПАВАРОЧВАЦЬ СПІНУ** *да каго, да чаго.*

**ПАВЯРНУЦЬ ТВАРАМ** *каго, што да чаго. Зак. да* **ПАВАРОЧВАЦЬ ТВАРАМ** *каго, што да чаго.*

*ПАГАНЯЕ* ● **ЖУЛІК НА ЖУЛІКУ ЕДЗЕ І ЖУЛІКАМ ПАГАНЯЕ** *дзе.* Гл. жулік.

*ПАГАНЯЦЬ* ● **МУХ ПАГАНЯЦЬ** *каму. Зак. да* **МУХ ГАНЯЦЬ.**

*ПАГІБЕЛІ* ● **ГНУЦЦА Ў ТРЫ ПАГІБЕЛІ** *перад кім.* Гл. гнуцца.

**ГНУЦЬ У ТРЫ ПАГІБЕЛІ** *каго.* Гл. гнуць.

**У ТР`Ы ПАГ`ІБЕЛІ** *гнуцца (сагнуцца), схіляцца* і пад. *Акал. Разм.* Вельмі нізка (гнуцца). *—Хутчэй, хутчэй, бо палкоўнік не любіць марудзіць! — і, схіліўшыся ў тры пагібелі перад высокім начальнікам, [бургамістр] ліслівa далажыў: —Калі ласка, пан палкоўнік, можаце пачынаць.* Лынькоў. *Увайшлі ў сені, сагнуўшыся ў тры пагібелі.* Дамашэвіч. *Жук паклаў цымбалы на стол і сагнуўся над імі ў тры пагібелі.* Пташнікаў. *Найбольш пастараўся боцман. Узваліў на плечы вялізную калоду, крактаў, гнуўся ў тры пагібелі, але прывалок-такі.*

Пашкоў.

*ПАГЛАДЗІЦЬ* ● **ПАГЛАДЗІЦЬ ПА ГАЛОЎЦЫ** *каго. Зак. да* **ГЛАДЗІЦЬ ПА ГАЛОЎЦЫ** *каго.*

**ПАГЛАДЗІЦЬ ПА ШЭРСЦІ** *каго. Зак. да* **ГЛАДЗІЦЬ ПА ШЭРСЦІ** *каго.*

**ПАГЛАДЗІЦЬ СУПРАЦЬ ШЭРСЦІ** *каго. Зак. да* **ГЛАДЗІЦЬ СУПРАЦЬ ШЭРСЦІ** *каго.*

*ПАГЛЫТАЦЬ* ● **ПАГЛЫТ`АЦЬ СЛ`ІНУ (СЛ`ІНКУ)**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. З зайздрасцю паглядаць некаторы час на што-н. спакуслівае, але недаступнае. *Усім скаромным загадвае старая. А яна, каб спагнаць сваю злосць, знарок не спяшаецца: «Трасцу, няхай жа паглытаюць трохі сліны пасынак ды нявестка».* Крапіва.

*ПАГЛЯДАЕ* ● *Чый* **НАСОК ПАГЛЯДАЕ Ў ПЯСОК.** Гл. насок.

*ПАГЛЯДЗЕЎШЫ* ● **ЗАБІЦЬ У ЗВАНЫ НЕ ПАГЛЯДЗЕЎШЫ Ў СВЯТЦЫ.** Гл. забіць.

**НЕ ПАГЛЯДЗЕЎШЫ Ў СВЯТЦЫ БІЦЬ У ЗВАНЫ.** Гл. біць.

*ПАГЛЯДЗЕЦЬ* ● **НА (І) ЛЮДЗ`ЕЙ ПАГЛЯДЗ`ЕЦЬ І СЯБ`Е ПАКАЗ`АЦЬ.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пабыць сярод людзей, пацікавіцца чым-н. *[Матыль:] Хачу падчапіць якога-небудзь іншаземца, каб на людзей паглядзець і сябе паказаць...* Зуб. *Пагодзічы Новы год страчалі.. у загадзя заарандаваным Вялікім тэатры разам з усім заводам.. Так што была магчымасць, як даўно ўжо гаворана, і людзей паглядзець і сябе паказаць.* Васілевіч.

**НІ САМ`ОМУ (САМ`ОЙ, САМ`ІМ) ПАГЛЯДЗ`ЕЦЬ НІ ЛЮДЗ`ЯМ ПАКАЗ`АЦЬ.** *Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці канкр. прадмета. Нікчэмны, непрыглядны; такі, што пакідае непрыемнае ўражанне. **Сін**.: адны слёзы; глядзець няма на што; з рук вон (у 2 знач.); кату пад хвост (у 2 знач.); кульгаць на абедзве нагі (у 3 знач.); курам на смех (у 1 знач.); на ліхога казана; не вытрымлівае ніякай крытыкі; не лезе ні ў якія вароты; нікуды не варты; ні к чорту (у 1 знач.); ні к чорту не варты; пусці павалюся (у 1 знач.); смеху варты. *Той хоць лётчыкам быў, а гэты хто? Так сабе вахлачок, ні самой паглядзець ні людзям паказаць.* Сабаленка. *У дзяўчыны паклоннікаў выбар багаты — расцудоўныя хлопцы, няма што казаць! Ну, а гэты... мізэрны, відаць, дурнаваты — ні самой паглядзець ні людзям паказаць.* Дзяргай.

**ПАГЛЯДЗЕЦЬ ВАЧАМІ** *чыімі, каго на каго, на што. Зак. да* **ГЛЯДЗЕЦЬ ВАЧАМІ** *чыімі, каго на каго, на што.*

**ПАГЛЯДЗЕЦЬ ІНШЫМІ ВАЧАМІ** *на каго, на што. Зак. да* **ГЛЯДЗЕЦЬ ІНШЫМІ ВАЧАМІ** *на каго, на што.*

**ПАГЛЯДЗЕЦЬ НА РЭЧЫ** *як. Зак. да* **ГЛЯДЗЕЦЬ НА РЭЧЫ** *як.*

**ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПРАЎДЗЕ Ў ВОЧЫ.** *Зак. да* **ГЛЯДЗЕЦЬ ПРАЎДЗЕ Ў ВОЧЫ.**

**ПАГЛЯДЗЕЦЬ СВЕТ.** Гл. пабачыць.

**ПАГЛЯДЗЕЦЬ У ЗУБЫ** *каму. Зак. да* **ГЛЯДЗЕЦЬ У ЗУБЫ** *каму.*

*ПАГНАЦЦА* ● **ПАГН`АЦЦА ЗА ДВУМ`А З`АЙЦАМІ.** *Зак. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць дамагацца дзвюх розных мэт, беручыся за дзве справы. *Сама ты ва ўсім вінаватая, бо пагналася за двума зайцамі. «Маладосць».*

*ПАГОДАЙ* ● **ЗА ПАГ`ОДАЙ** выбірацца, уцякаць і пад. *Акал. Разм.* Пакуль не позна, пакуль спрыяюць абставіны, умовы. **Сін**.: за добрае надвор'е. *Уцякай жа за пагодай, донька маладая, покі дзень засвеціць ясны, покі сіл хапае!* Купала. *[Тамаш:] Ну, дык прашу за пагодай, а то колікам папрашу. [Адзінота:] Хаця ты нас не палохай.* Галубок. *Напамінаем вам, паны-ягомасці: выбірайцеся ад нас за пагодаю.* Баранавых. *Вельмі добра, што яны выбраліся яшчэ за пагодай. Мне во цяпер Цімка шапнуў, што да іх, калі хлопцы былі на леснічоўцы, два разы заходзілі нейкія тыпы.* Машара.

*ПАГОДЗЕ* ● **НІ ПРЫ ЯК`ОЙ ПАГ`ОДЗЕ**. *Акал. Разм. Ужыв. у адмоўн. ск. (для ўзмацнення адмоўя).* Ніколі і ні пры якіх умовах, абставінах (не рабіць чаго-н.). **Сін.:** ні за што; ні за што на свеце; ні за якія грошы; ні ў жысць; ні ў якім разе; ніякімі сіламі. *Ці ж мала войнаў за стагоддзе ў нас на планеце ўсёй? О не, ні пры якой пагодзе не трэба болей зброі ёй!* Прыходзька.

*ПАГОДУ* ● **РАБІЦЬ ПАГОДУ** <*у чым, дзе*>. Гл. рабіць.

*ПАГОДЫ* ● **ЧАКАЦЬ З МОРА ПАГОДЫ.** Гл. чакаць.

*ПАГРЭЦЬ* ● **ПАГР`ЭЦЬ Л`ОБ**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Старанна, да поту папрацаваць. **Сін:** праліць пот; сем патоў выліць (у 1 знач.); сем патоў сагнаць. *Выправіць сваю памылку ніколі не сорамна! Калі трэба, дык трэба і лоб пагрэць*. Махнач.

**ПАГР`ЭЦЬ П`ЯТЫ**. *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пабыць дзе-н. зусім нядоўгі час. *Не было яго – не балела галава, а вярнуўся – кадук яго ведае… Можа, надумаўся пагрэць пяты ды зноў гайсануць… – Ну, а цяпер ты куды? – спытала Зіна. – Паедзеш ці ў калгасе астанешся?* Гроднеў. [*Янкоўскі*, с. 323: пяты пагрэць (абагрэць, сагрэць) – 'пабыць (мала, крыху), агледзецца, звыкнуць'.]

**ПАГРЭЦЬ РУКІ** *на чым, каля чаго, аб што, дзе. Зак. да* **ГРЭЦЬ РУКІ** *на чым, каля чаго, аб што, дзе.*

*ПАГУЛЯЦЬ* ● **ПАГУЛ`ЯЦЬ У КАТ`А І М`ЫШКУ (У КОШКІ-МЫШКІ).**

*Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Схітраваць, стараючыся падмануць каго-н. **Сін.**: задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); запудрыць мазгі *каму*; навешаць лапшы на вушы *каму*; павадзіць за нос *каго. Не дзіва – [шпікі і паліцэйскія] ішлі на гатовае, упэўненыя ў сваім поспеху. Чаму ж не пагуляць у ката і мышку?* Машара. *Недзе глыбока ў свядомасці была думка, што проста будзе добра пажыць на свеце які лішні дзень і ўжо для гэтага варта пагуляць у ката і мышку з ненавісным оберстам.* Шахавец. *Яго палавінная хуткасць – іх гранічная. У іх, на гэтым дапатопным шарабане, безумоўна, лысыя шыны, ва ўсякім разе такія пратэктары, як у яго, яны і не снілі. На што яны разлічваць? Дагнаць яго? Наіўныя. Але зацятыя, гады... «Ну, што ж, хлопцы, пагуляем у кошкі-мышкі».* Шамякін.

**ПАГУЛ`ЯЦЬ У МАЎЧ`АНКУ.** *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ухіліцца на некаторы час ад размовы. *Тры дні стары нос адварочваў, не размаўляў, але ж у адной хаце доўга ў маўчанку не пагуляеш.* Праўдзін.

*ПАДАБРАЎ* ● **<I> КРОШКІ ПАДАБРАЎ** *чые, каго, у каго, з каго.* Гл. пабраў.

*ПАДАБРАЦЬ* ● **ПАДАБРАЦЬ КЛЮЧЫК** *да каго, да чаго. Зак.* да **ПАДБІРАЦЬ КЛЮЧЫК** *да каго, да чаго.*

*ПАДАВАЦЬ* ● **НЕ ПАДАВ`АЦЬ (НЕ ПАК`АЗВАЦЬ) В`ІДУ (В`ЫГЛЯДУ).** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нічым не выяўляць сваіх думак, намераў, пачуццяў і пад. **Сін.**: не падаваць знаку. *Маці непакоіла, што за рыбалоў ходзіць па беразе, але яна не падавала выгляду, што хвалюецца.* Гурскі. *Нікому не кажыце, што мы з вамі знаёмыя. Я вас не ведаю, а вы мяне. Не падавайце нават выгляду.* Баранавых. **НЕ ПАДАЦЬ (НЕ ПАКАЗАЦЬ) ВІДУ (ВЫГЛЯДУ).** *Зак. Валю кранулі гэтыя словы, але яна не падала віду.* Дамашэвіч. *Агей вяжа ў галаве перажыткі мінулага. Хочацца яму распытацца пра ўсё гэта, ды не ведае, як падысці, каб віду не паказаць.* Каваль.

**НЕ ПАДАВ`АЦЬ (НЕ ПАК`АЗВАЦЬ) ЗН`АКУ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нічым не выяўляць сваіх думак, намераў, пачуццяў і пад. **Сін.**: не падаваць віду. **НЕ ПАДАЦЬ (НЕ ПАКАЗАЦЬ) ЗНАКУ.** *Зак. Вывелі нас. Глядзімо — дванаццаць канвойнікаў, трынаццаты — камандзір. Трусімся мы, але і знаку не падаём, што ў нас на мыслі.* Колас. *Ганна вочы тады адвяла ўбок, не падала і знаку, што помніць, знарок схавалася ў натоўпе.* Мележ. *Але не паказаў знаку Пейсах, захаваў на самае дно свайго сэрца вялікую здаволенасць...* Мурашка.

**ПАДАВ`АЦЬ Г`ОЛАС.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са

знач. асобы. **1**. Абзывацца, гаварыць што-н. *Яны маўчалі. Нават Янка, такі ўжо шчыры, адданы друг, і той не падаваў голасу.* Колас. **ПАДАЦЬ ГОЛАС.** *Зак. —Дык што ж мне рабіць з табой? — нарэшце падаў голас праваднік.* Кудравец.

**2**. <*каму*>. Выяўляць сваю наяўнасць, існаванне, паведамляючы што-н. **Сін**.: даваць аб сабе знаць (у 1 знач.). **ПАДАЦЬ ГОЛАС** <*каму*>. *Зак. Хто ж там трэці ўцёк тады, з Сяргеем і Печкам?.. Каб жа пачуць хоць што-небудзь яшчэ! Ці голас ім падаць!..* Брыль. *Як жа сталася, што ён за дваццаць чатыры гады не падаў ёй нават голасу.* Кузьмянкоў.

**ПАДАВ`АЦЬ НАДЗ`ЕІ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выяўляць якія-н. задаткі, праяўляць схільнасці да чаго-н. *Віка свой шосты клас сумяшчала з навучаннем у музычнай школе і, як казалі настаўнікі, падавала надзеі.* «Полымя». **ПАДАЦЬ НАДЗЕІ.** *Зак. За паўгода [спецкор] дайшоў да нарыса і нават фельетон надрукаваў. Падае надзеі.* Навуменка.

**ПАДАВ`АЦЬ (ПРАЦ`ЯГВАЦЬ) РУК`У <ДАПАМ`ОГІ>** *каму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці зборн. прадмета. Аказваць дапамогу ў цяжкую хвіліну, выручаць. **Сін**.: браць на буксір *каго*; падпіраць плячом *каго*; падстаўляць плячо *каму*; цягнуць за вушы *каго*. *[Наталля:] А падавала я табе руку, прасіла — падумай, ці добра ты робіш? Слова выгаварыць не даў, накрычаў, злаяў.* Крапіва. *Я прапаную вам перадаць брату, што камандаванне брыгады «За родную Беларусь» апошні раз працягвае «жбікам» руку.* Брыль. **ПАДАЦЬ (ПРАЦЯГНУЦЬ) РУКУ <ДАПАМОГІ>** *каму. Зак. [Салавейчык:] Чалавек чалавеку друг, таварыш, брат! Дык няўжо ж вы не працягнеце руку дапамогі свайму другу, таварышу і брату?* Матукоўскі.

**ПАДАВ`АЦЬ СЯБ`Е.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паказвацца з лепшага, найбольш выйгрышнага боку, ствараючы пэўнае ўражанне. **ПАДАЦЬ СЯБЕ.** *Зак. І, здаецца, [Аляксей] шчыра гаварыў... Адзіную загану яна [Каця] знайшла тады ў яго — любіў выставіцца, «падаць сябе»... Асабліва перад незнаёмымі дзяўчатамі...* Міська. *Галоўнае — умець сябе падаць. Каторая — глядзець няма на што, а ідзе, як Клеапатра.* Каржанеўская.

*ПАДАЕ* ● **МАННА З НЕБА ПАДАЕ** *каму*. Гл. манна.

**ПАДАЕ З НЕБА** *каму, у каго*. Гл. валіцца.

**ЦЕНЬ ПАДАЕ** *на каго, на што*. Гл. цень.

*ПАДАЙ* ● **АДАРВІ ДЫ ПАДАЙ.** Гл. адарві.

**САРВІ ДЫ ПАДАЙ.** Гл. сарві.

**ХОЦЬ СТОЙ ХОЦЬ ПАДАЙ.** Гл. стой.

*ПАДАРВАЦЬ* ● **ПАДАРВАЦЬ ЖЫВАТЫ <АД СМЕХУ>**. Гл. надрываць.
*ПАДАРВІСЯ* ● **ХОЦЬ ПАДАРВІСЯ** *каму*. Гл. разарвіся.
*ПАДАРЫЎ* ● **ЯК РУБЛ`ЁМ ПАДАР`ЫЎ (-ЛА, -ЛІ).** *Акал. Разм. Адабр.* Вельмі ласкава, прыхільна, добразычліва (глядзець, паглядзець на каго-н. і пад.). *Яна паглядзела на мяне – як рублём падарыла.* Камейша.
*ПАДАЦЬ* ● **НЕ ПАДАЦЬ ВІДУ.** *Зак. да* **НЕ ПАДАВАЦЬ ВІДУ.**

**НЕ ПАДАЦЬ ЗНАКУ.** *Зак. да* **ПАДАВАЦЬ ЗНАКУ.**

**ПАДАЦЬ ГОЛАС.** *Зак. да* **ПАДАВАЦЬ ГОЛАС.**

**П`АДАЦЬ Д`УХАМ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Траціць упэўненасць, адчайвацца. **Сін**.: вешаць галаву; вешаць нос; вешаць нос на квінту; занепадаць духам. *[Яніна:] Я вось у горшым становішчы, ды і то духам не падаю.* Козел. **УПАСЦІ ДУХАМ.** *Зак. —Э-э, не пазнаю цябе, Рынальдзі,— знарок з насмешкай сказаў Аляксей. — Каб ты, такі моцны чалавек, і раптам паў духам?* Хадкевіч. *Цяпер яна [Марыя] думала толькі аб адным: як бы выстаяць, не ўпасці духам, каб ворагі не цешыліся з яе слабасці.* Гурскі. *У кожнага з вас будуць цяжкасці, няўдачы расчараванні. Не палохайцеся, не падайце духам. Самае страшнае — упасці духам... Страціць веру...* Шамякін.

**ПАДАЦЬ З РУК.** Гл. валіцца.

**П`АДАЦЬ Л`ІСТАМ** *перад кім. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Лісліва дагаджаць каму-н., падлізвацца да каго-н. **Сін**.: віляць хвастом (у 1 знач.); гнуцца ў тры пагібелі *перад кім*; гнуць спіну *перад кім*; ламаць шапку *перад кім*; лізаць боты *каму*; падпускаць лёстачкі *каму*; поўзаць на каленях *перад кім*; рассыпацца драбней маку *перад кім*; рассыпацца <дробным> макам *перад кім*; слацца лістам *перад кім*; станавіцца на заднія лапкі *перад кім*; хадзіць на задніх лапках *перад кім*; хадзіць на пальчыках *перад кім. Аб родных дочках у цябе не баліць галава. Ніколі і на двор да іх не глянеш, як там яно і што, а перад нявесткай ты гатоў падаць лістам.* Васілевіч. *А ці трэба было так ужо падаць лістам перад ім.* Янкоўскі.

**ПАДАЦЬ НАДЗЕІ.** *Зак. да* **ПАДАВАЦЬ НАДЗЕІ.**

**П`АДАЦЬ НА КАЛ`ЕНІ** *перад кім. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Уніжана прасіць аб чым-н. **Сін**.: біць паклоны (у 2 знач.); біць чалом (у 2 знач.); кланяцца ў ногі *каму*; цалаваць рукі і ногі *каму*. **УПАСЦІ НА КАЛЕНІ** *перад кім. Зак. І патрабаваў, і прасіў, каб я сказала Івану не гаварыць на судзе тое, што перад следчым... Бачыў бы ты яго... То кулакі, то гатовы ўпасці на калені...* Ярашэвіч.

**ПАДАЦЬ РУКУ <ДАПАМОГІ>** *каму. Зак. да* **ПАДАВАЦЬ РУКУ <ДАПАМОГІ>** *каму.*

**ПАДАЦЬ СЯБЕ.** *Зак. да* **ПАДАВАЦЬ СЯБЕ.**

**П`АДАЦЬ <ТВ`АРАМ> У ГР`АЗЬ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Набірацца сораму, паказваць сябе з найгоршага боку ў чым-н. **Сін**.: пляснуцца <тварам> у лужыну. **Ант**.: не ўдарыць тварам у гразь. *Не хацелася [Лукашыку] падаць у гразь вось перад гэтым сяржантам-выскачкам, які будзе рады яго бядзе і ў душы насмяецца з яго.* Дамашэвіч. **УПАСЦІ <ТВАРАМ> У ГРАЗЬ.** *Зак. Ты ж сам некалі абяцаў, што будзеш берагчы сваё здароўе — для мяне, для дзяцей... Кінуў піць, курыць, а цяпер што, зноў хочаш упасці тварам у гразь...* Дайліда.

**РУК`ОЙ ПАД`АЦЬ** *да чаго. У знач. імен. вык. Разм.* Зусім блізка, не вельмі далёка. **Сін**.: адзін крок *ад чаго да чаго*; за два крокі *ад каго, ад чаго*; за плячамі *каго, у каго* (у 2 знач.); не за гарамі (у 1 знач.); пад бокам (у 1 знач.); пад рукамі (у 2 знач.); пад рукой (у 2 знач.); пад <самым> носам *у каго, чым, каго*; перад вачамі *<чыімі>*; перад носам *<каго, чыім>. Да гэтага мястэчка ад нас рукою падаць.* Калюга. *Максім, відаць, хацеў, прыкрываючы адыход хлопцаў, падпусціць бліжэй легіянераў, шарахнуць у іх гранатаю, а самому за азяродамі праскочыць у хмызняк, а там і да лесу рукой падаць.* Грахоўскі. *Тут было рукой падаць да хутара, і тут яна [Сцепаніда] ведала ўсе пянькі, сцежкі, вытаптаныя Бабоўчынымі ды яе нагамі.* Быкаў. *Ну, а ад Сажаўкі ўжо рукою было падаць да Салігорскага вадасховішча.* Міська. *Да абедзвюх вёсак рукой падаць.* Пашкоў.

*ПАДАЮЦЬ* • **АКЦЫІ ПАДАЮЦЬ** *чые, каго.* Гл. акцыі.

*ПАДБІВАННЕ* • **ПАДБІВ`АННЕ КЛІН`ОЎ (КЛІНК`ОЎ)** *да каго. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Іран.* Заляцанне. *Ды неўзабаве гэтае прастойванне ў лінатыпнай успрынялі ў друкарні як падбіванне кліноў да лінатыпісткі Леначкі — балбатлівай, з кірпатым носікам бландзіначкі.* Блакіт.

*ПАДБІВАЦЬ* • **ПАДБІВ`АЦЬ Б`АБКІ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Падсумоўваць зробленае, падводзіць вынікі. **Сін**.: падводзіць рысу (у 2 знач.). *Відаць, асобныя, пераломныя моманты жыцця памяць хавае доўга, мо і да скону, хоць, пэўна, і хацелася б, калі настане пара падбіваць бабкі, тое-сёе сцерці, быццам школьнай гумкай, каб не вярэдзіла без меры табе душу.* Рыбак. **ПАДБІЦЬ БАБКІ.** *Зак. — Заадно каліту сваю прыхапі — разлічымся, — наказаў Самусік. —Падаб'ём бабкі.* Калодзежны. *Засталося ў рэцэнзіі на аповесць, як кажуць, падбіць бабкі* «ЛіМ».

**ПАДБІВ`АЦЬ КЛІН`Ы (КЛ`ІННІ, КЛІНК`І, КЛІН`ОЧКІ)** *пад каго, да*

*каго. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Заляцацца да каго-н. **Сін**.: халяўкі смаліць *за кім. Ды я не ведаю, чым больш кіравалася Рая... Пад Прымака ўжо кліны падбівае.* Місько. *[Каліберац:] Ты што? Пад чужых жонак клінні падбіваеш?* Макаёнак. *[Зося:] Дык ці не клінкі ты пад Жэньку падбіваць пачынаеш?* Козел. **ПАДБ`ІЦЬ КЛІН`Ы (КЛ`ІННІ, КЛІНК`І, КЛІН`ОЧКІ)** *пад каго, да каго. Зак. Нехта прыгадаў, што ў Рэчыцы жыве ўдава царскага палкоўніка. Хлопцы рагаталі: «Валодзя, ці не да палкоўнічыхі ты кліны падбіў?»* Шамякін.

**2**. Паддобрывацца да каго-н. з карыслівай мэтай. *Адно цяпер Мікалай зразумеў, чаму Кавальчук стараўся яму так прыслужыць — падбіваў кліночкі, шукаў заступніка і хадатая.* Карпюк. **ПАДБІЦЬ КЛІНЫ (КЛІННІ, КЛІНКІ, КЛІНОЧКІ)** *пад каго, да каго. Зак.*

*ПАДБІВАЮЦЦА* ● **БАБКІ ПАДБІВАЮЦЦА.** Гл. бабкі.

*ПАДБІРАЦЬ* ● **ПАДБІР`АЦЬ КЛ`ЮЧЫК (КЛЮЧ`Ы)** *да каго, да чаго. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знаходзіць правільны падыход. *[Андрэй:] Цяпер некаторым клопат, да новага сакратара ключык падбіраць трэба. Новыя сцежкі пратоптваць.* Маўзон. *Вучыцеся, Аляксей Васільевіч, чытаць дзіцячыя душы, падбіраць ключык да іх сэрцаў і розумаў.* «Настаўн. газ.» **ПАДАБРАЦЬ КЛЮЧЫК (КЛЮЧЫ)** *да каго, да чаго. Зак. Людзей у вас будзе мала, пакуль што ўсяго тры чалавекі там, вы чацвёрты. Людзі своеасаблівыя. Да кожнага трэба падабраць ключык.* Шамякін. *Жандар хутка падабраў да яго ключык, і Парфіяновіч выдаў многіх, у тым ліку Каліноўскага.* Кісялёў.

*ПАДБІТЫ* ● **ПАДБ`ІТЫ (-АЯ, -АЕ, -ЫЯ) В`ЕТРАМ (ВЯТР`АМІ).** *Разм.* **1**. *Азн. і вык. Жарт.* Які прапускае холад, дрэнна саграваe. Пра адзенне ці жыллё. **Сін**.: на рыбіным футры; падшыты ветрам. *У ботах армейскага крою, падбітым вятрамі плашчы ён [капітан] полем ідзе пад зарою, дзе тупалі ўчора дажджы.* Калачынскі. *Адзін з дэпутатаў, пабачыўшы, што я, сабіраючыся ўжо выходзіць з тэатра, апранутая ў шырокую, ветрам падбітую сялянскую світку, папрасіў мяне крыху затрымацца і праз некалькі хвілін прынёс і падараваў мне цёплы ваўняны світар.* Мядзёлка. *У туфельках на гумавым хаду, у паліто, падбітым ветрам, і ў летняй шапцы бег я на вакзал.* Сабаленка. *Ноч хоць і немарозная, ды восень ёсць восень, а світка яго — ветрам падбітая.* Шамякін. *Неспакойная прафесія будаўніка прымусіла яго [Лятра] змяніць утульны пакойчык на ўскраіне сталіцы на дашчаны, падбіты ветрам барак.* Шахавец.

**2**. *Вык. і азн. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Легкадумны, несур'ёзны, пусты. **Сін**.: вецер у галаве <гуляе> *у каго*; з ветрам у

галаве; куды вецер дзьме; як у полі вецер. *Няхай нават і выйдзеш яшчэ раз замуж, але ці знойдзеш лепшае? Яны цяпер, мужчыны, усе ветрам падбітыя.* Радкевіч.

*ПАДБІЎ* ● **ЧОРТ ПАДБІЎ** *каго.* Гл. чорт.

*ПАДБІЦЬ* ● **ПАДБІЦЬ БАБКІ.** *Зак. да* **ПАДБІВАЦЬ БАБКІ.**

**ПАДБІЦЬ КЛІНЫ** *пад каго, да каго. Зак. да* **ПАДБІЦЬ КЛІНЫ** *пад каго, да каго.*

*ПАДБОР* ● **ЯК НА ПАДБ`ОР.** *Вык. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн., выраж. наз. назоўн. скл. мн. са знач. асобы, адуш. ці канкр. прадмета. Зусім аднолькавыя і добрыя па якіх-н. якасцях. **Сін**.: адзін пад адзін (у 2 знач.); адзін у адзін; лоб у лоб (у 2 знач.); як адзін (у 3 знач.). *Якія ж хлопцы вы ды хваты! Як на падбор: адзін у адзін!* Колас. *—Бач, вы якія, — акінуўшы іх позіркам, усміхнуўся чалавек. —Як на падбор, нібы блізняты...* Хадкевіч. *Пасыпаліся арэхі, буйныя, поўныя, усе як на падбор.* Маўр.

*ПАДВЕСЦІ* ● **ПАДВЕСЦІ МІНУ** *пад каго, пад што. Зак. да* **ПАДВОДЗІЦЬ МІНУ** *пад каго, пад што.*

**ПАДВЕСЦІ ПАД АБУХ** *каго. Зак. да* **ПАДВОДЗІЦЬ ПАД АБУХ** *каго.*

**ПАДВЕСЦІ ПАД ДУРНОГА ХАТУ** *каго.* **ПАДВОДЗІЦЬ ПАД ДУРНОГА ХАТУ** *каго.*

**ПАДВЕСЦІ ПАД МАНАСТЫР** *каго. Зак. да.* **ПАДВОДЗІЦЬ ПАД МАНАСТЫР** *каго.*

**ПАДВЕСЦІ РЫСУ.** *Зак. да* **ПАДВОДЗІЦЬ РЫСУ.**

*ПАДВЕШАНЫ* ● **ЯЗЫК ДОБРА ПАДВЕШАНЫ** *ў каго.* Гл. язык.

**ЯЗЫК ДРЭННА ПАДВЕШАНЫ** *ў каго.* Гл. язык.

*ПАДВЕШАНЫМ* ● **У ПАДВЕШАНЫМ СТАНЕ.** Гл. стане.

*ПАДВОДЗІЦЦА* ● **РЫСА ПАДВОДЗІЦЦА** *пад чым.* Гл. рыса.

*ПАДВОДЗІЦЬ* ● **ПАДВ`ОДЗІЦЬ ПАД АБ`УХ** *каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ствараць становішча, пагрозлівае для чыйго-н. жыцця. **Сін**.: без нажа рэзаць *каго*; падстаўляць пад удар *каго*; ставіць пад абух *каго.* *—Ды за такі рамонт расстраляць трэба, нягоднік. Ты сваёй работай падводзіш усіх нас пад абух, і мяне, і вось іх! — паказаў ён на рабочых.* Лынькоў. *Яны не маюць права падводзіць мяне пад абух.* Крапіва. **ПАДВЕСЦІ ПАД АБУХ** *каго. Зак. Бачыце, ідыёты, як робяць сацыялісты-завадатары? Вас, шэрае быдла, падвёў пад абух, а сам, напэўна, з немцамі шнапс п’е.* Шамякін.

**ПАДВ`ОДЗІЦЬ ПАД ДУРН`ОГА Х`АТУ** *каго. Незак. Прост. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ставіць каго-н. у цяжкае, няёмкае становішча. **Сін**.: падводзіць міну *пад каго, пад што*;

падводзіць пад манастыр *каго*; падкладваць свінню *каму*. **ПАДВЕСЦІ ПАД ДУРНОГА ХАТУ** *каго. Зак. Ой, глядзі, дачка, каб не падвялі пад дурнога хату.* Адамчык. *Валодзька каго хочаш, нават бацьку роднага, здольны падвесці пад дурнога хату.* Блакіт. *Ты глядзі ж, не падвядзі мяне пад дурнога хату.* Семашкевіч. *Ты думай, ды не будзь куццёю, а то падвядзе пад дурнога хату.* Дамашэвіч.

**ПАДВ`ОДЗІЦЬ (ПАДКЛ`АДВАЦЬ, ПАДКЛАД`АЦЬ) М`ІНУ** *пад каго, пад што. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Цішком рабіць вялікую непрыемнасць каму-н. **Сін**.: падводзіць пад дурнога хату *каго*; падводзіць пад манастыр *каго*; падкладваць свінню *каму. [Надзя:] Я чула, як яна тут міну падводзіла пад мяне. [Валодзя:] Дражнілася. Ты ж яе ведаеш.* Крапіва. *Ляцкі падкладай міну і пад тое, і пад гэтае, пакуль не перакана́йся, што нічога ад мяне не даб'еццa.* Лужанін. **ПАДВЕСЦІ (ПАДКЛАСЦІ, ПАДЛАЖЫЦЬ) МІНУ** *пад каго, пад што. Зак. Упершыню ж [Рыгор] адчуў, што падвялі міну пад яго таемныя жаданні, калі пачалі гаварыць пра бацькаву жаніцьбу.* Місько. *Гэта помста. Гэта спрабавалі падвесці міну ў першую чаргу пад мяне, а затым і пад газету.* Ракітны. *Ну і падвёў мяне Ігнат! Падклаў, як кажуць, міну...* Скрыпка.

**ПАДВ`ОДЗІЦЬ ПАД МАНАСТ`ЫР** *каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн: са знач. асобы. Хітрасцю, падманам ставіць каго-н. у цяжкае, непрыемнае становішча. **Сін**.: падводзіць міну *пад каго, пад што*; падводзіць пад дурнога хату *каго*; падкладваць свінню *каму*. **ПАДВЕСЦІ ПАД МАНАСТЫР** *каго. Зак. Студэнты нашы як пайшлі сягоння зранку, дык дагэтуль і няма яшчэ, ліха ім, гатовы пад манастыр падвесці — збягуць з кватэры, не заплаціўшы...* Чорны. *Казалі, Шлык можа падвесці пад манастыр: параіць нешта, скіраваць у зусім другі бок, а потым абсмяяць, паказаць пры ўсіх, які ты дурань.* Радкевіч.

**ПАДВ`ОДЗІЦЬ Р`ЫСУ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Спыняць, канчаць што-н. **Сін**.: пакласці канец *чаму*; ставіць кропку *на чым, над чым, у чым* (у 2 знач.). *Ішла трэцяя гадзіна нарады. Калеснік вырашыў: час падводзіць рысу.* «Маладосць». **ПАДВЕСЦІ РЫСУ**. *Зак. Пісьмо гэта, самі разумееце, на якім кантролі... Я прапаную падвесці рысу і галасаваць за прапанову партыйнага бюро.* Левановіч.

**2**. *пад чым.* Падсумоўваць зробленае. **Сін**.: падбіваць бабкі. *Не падводзьце, не падводзьце, хлопцы, рысы. Не заводзьце ў цень памінак юбілей.* Кірэенка. **ПАДВЕСЦІ РЫСУ** *пад чым. Зак. — Выходзіць, іншы раз трэба насуперак сваім жаданням, волі нешта рабіць, — як бы падсумаваў, падвёў рысу пад гаворкай сакратар райкома.* Сачанка.

*Хто пад мінулым рысу падвядзе? Шумець вякам у зелені галін.* Бондар. *Пара падумаць на дарогу — падвесці рысу пад жыццём.* «ЛіМ».

*ПАДВОДНАЯ* ● **ПАДВОДНАЯ ПЛЫНЬ** *чаго.* Гл. плынь.

*ПАДВОДНЫЯ* ● **ПАДВОДНЫЯ КАМЯНІ.** Гл. камяні.

*ПАДВЯРНУЦЦА* ● **ПАДВЯРН`УЦЦА ПАД РУК`У** *каму. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Выпадкова аказацца побач з кім-н., на чыім-н. шляху. **Сін**.: пападаць пад руку *каму. Юркавец, калі ў яго сапраўды ўзніклі нейкія сумненні, мог аддаць папку і якому іншаму супрацоўніку, які падвярнуўся яму пад руку.* Шыцік. *Мы палахліва выглядалі з кустоў, не адважваючыся ў той дзень падвярнуцца пад руку старэйшым.* Кузьмянкоў. *Нават маючы ў кішэні доўгачаканы дыплом, выпускнік-араб, як правіла, не можа знайсці работу па спецыяльнасці і вымушан брацца за ўсё, што падвернецца пад руку.* «Звязда».

*ПАДДАВАЦЦА* ● **ПАДДАВ`АЦЦА НА В`УДАЧКУ** *каго, чыю, каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даваць сябе падмануць, ашукаць. **Сін**.: ісці на вудачку *чыю, каго*; клюнуць на вудачку (у 1 знач.); пападаць на кручок *каму, чый, каго. Не, брат Андрэй, гора таму, хто разумее жыццё навыварат і паддаецца на вудачку розных палітычных машэннікаў.* Колас. **ПАДДАЦЦА НА ВУДАЧКУ** *каго, чыю, каму. Зак. Найбольш адсталая частка сяла паддалася была на вудачку кулака і абвясціла крыж святым.* Броўка. *Заняты справай, каторы раз пытаўся, ці правільна раблю? Паддаўся на вудачку якойсьці паненачцы з варожага лагера.* Карпюк.

*ПАДДАВАЦЬ* ● **ПАДДАВ`АЦЬ Д`УХУ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Натхняць, падбадзёрваць каго-н., падымаць настрой у каго-н. **Сін**.: паддаваць пары *каму* (у 1 знач.). *Лабановіч спусціў свой выйгрыш, але Зязюльскі паддаваў яму духу. – Выйграем яшчэ! Ты толькі мяне слухай.* Колас. **ПАДДАЦЬ ДУХУ** *каму. Зак. — Ты не прападзеш, Алесь, — паддаў яму духу Лабановіч. — Усе мы, браток, напэўна, за першы год настаўніцтва навучыліся мудрасці жыцця.* Колас.

**2**. Прымушаць каго-н. дзейнічаць больш энергічна, актыўна. **Сін**.: паддаваць жару *каму* (у 2 знач.); паддаваць пары *каму* (у 2 знач.). *Трэба горда цягнуць лямку жыцця, як цягнулі яе і да вайны, ды болей яшчэ адзін аднаму паддаваць духу да вытрываласці на сваім загоне, у сваіх жыццёвых* мэтах. Купала. *Паміж рабочых хадзіў наглядчык малаец Файлу і паддаваў духу бізуном.* Маўр. **ПАДДАЦЬ ДУХУ** *каму. Зак.*

**ПАДДАВ`АЦЬ Ж`АРУ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са

знач. асобы. **1**. Прабіраць, распякаць каго-н. **Сін**.: браць пад абстрэл *каго, што*; браць у абарот *каго* (у 2 знач.); браць у пераплёт *каго* (у 2 знач.); браць у работу *каго* (у 2 знач,); браць у шоры *каго* (у 2 знач.); выганяць матыліцу *з каго*; выціскаць пот *з каго* (у 2 знач.); даваць гарту *каму* (у 1 знач.); даваць гонку *каму*; даваць дыхту *каму* (у 1 знач.); даваць жару *каму* (у 1 знач.); даваць перцу *каму* (у 1 знач.); даваць піць *каму*; даваць прыкурыць *каму* (у 1 знач.); даваць пытлю *каму* (у 1 знач.); даваць у косці *каму* (у 1 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 1 знач.); даваць чосу *каму* (у 1 знач.); задаваць пары *каму*; здымаць стружку *з каго*; мыліць галаву *каму*; мыліць шыю *каму* (у 2 знач.); накруціць хвост *каму*; прадзіраць з пясочкам *каго*; спусціць скуру з *каго* (у 2 знач.); усыпаць перцу *каму*. **ПАДДАЦЬ ЖАРУ** *каму. Зак. Не дзіва: жывём у такой завірусе, што няма калі добра адумацца ці правесці якую справу гладка... А тут яшчэ Ромусь Рабэйка паддаў жару...* Гарэцкі. *Я прызнаюся, што ты са свайго боку, паддаўшы мне крыху жару на пленуме, меў рацыю. Відаць, мяне крытыкаваць таксама ёсць за што.* Раманаў.

**2.** Прымушаць каго-н. дзейнічаць больш энергічна. **Сін**.: паддаваць духу *каму* (у 2 знач.); паддаваць пары *каму* (у 2 знач.). *А ў дзвярах пяхотныя камандзіры паддавалі жару: —Яшчэ і яшчэ падкіньце агеньку, артылерысты!* Няхай. *—Гэт-гэт! — паддавай каню жару Астап, узмахваючы над ім рукамі.* Лецка. **ПАДДАЦЬ ЖАРУ** *каму. Зак.*

**ПАДДАВ`АЦЬ П`АРЫ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Натхняць, падбадзёрваць каго-н. **Сін**.: паддаваць духу *каму* (у 1 знач.). *Хіба доктар з трубкай расстаецца? Дзед жартуе, пары паддае: —Ты прыдумаў запасное сэрца! Па сваяцтву зробіш? Хай яно стукае-працуе без адбою!* Агняцвет. **ПАДД`АЦЬ П`АРЫ** *каму. Зак.*

**2**. Прымушаць каго-н. дзейнічаць больш энергічна. **Сін**.: паддаваць духу *каму* (у 2 знач.); паддаваць жару *каму* (у 2 знач.). *Сваёй адзінай «конскай сіле», якая й так напружвае ўсё жылле, ён [селянін] пугай пары паддае.* Крапіва. **ПАДДАЦЬ ПАРЫ** *каму. Зак. Яму [Сімону] толькі напрыкрыла даўгая дарога, і ён часта загадваў: —А ну, паддай пары гэтай чортавай клячы, Гвацыя!* Самуйлёнак.

*ПАДДАЎКІ* ● **ГУЛЬНЯ Ў ПАДДАЎКІ.** Гл. гульня.

**ГУЛЯЦЬ У ПАДДАЎКІ.** Гл. гуляць.

**ЗГУЛЯЦЬ У ПАДДАЎКІ.** Гл. згуляць.

*ПАДДАЦЦА* ● **ПАДДАЦЦА НА ВУДАЧКУ** *каго, чыю, каму. Зак.* да **ПАДДАВАЦЦА НА ВУДАЧКУ** *каго, чыю, каму.*

*ПАДДАЦЬ* ● **ПАДДАЦЬ ДУХУ** *каму. Зак. да* **ПАДДАВАЦЬ ДУХУ** *каму.*

**ПАДДАЦЬ ЖАРУ** *каму. Зак. да* **ПАДДАВАЦЬ ЖАРУ** *каму.*

**ПАДДАЦЬ ПАРЫ** *каму. Зак. да* **ПАДДАВАЦЬ ПАРЫ** *каму.*

*ПАД'ЕДЗЕШ* ● **НА КАЗ`Е НЕ ПАД'`ЕДЗЕШ** *да каго. Зак. У абаг.-асаб. знач. Праст.* Немагчыма знайсці падыход да каго-н., не падступішся да каго-н. (з-за яго важнасці, строгасці і пад.). *[Кацярына Паўлаўна] нашмаруецца, напусціць кудлы і думае, што яна немаведама што. З землямерам пазнаёмілася! Ані подступу! На казе не пад'едзеш!* Колас. *Пачынаць зараз гаворку наконт уяўнай сустрэчы было б бессэнсоўна — можна толькі выклікаць падазрэнне, і тады да напалоханага бургамістра на казе не пад'едзеш.* Новікаў.

*ПАД'ЕСЦІ* ● *Трэба* **ПАД'`ЕСЦІ (З'`ЕСЦІ П`УД) ЖАЛ`ЕЗНАГА Б`ОБУ.** *Зак. Часцей ужыв. у форме інф. Вык. Разм. Іран.* Мець вялікую вытрымку, цярпенне, уменне і пад. (каб зрабіць што-н. цяжкае, амаль немагчымае). *Ты таксама не ведаеш, што такое фронт; каб растлумачыць табе, што такое фронт, трэба пад'есці жалезнага бобу.* Баранавых. *[Гаруной:] Ты самага галоўнага не ведаеш — псіхалогіі селяніна. Каб кіраваць сялянамі, трэба з'есці пуд жалезнага бобу.* Дуброўскі.

*ПАД'ЁМ* ● **ЛЕГКІ НА ПАД'ЁМ.** Гл. лёгкі.

**ЦЯЖКІ НА ПАД'ЁМ.** Гл. цяжкі.

*ПАДЖЫЛКІ* ● **ПАДЖ`ЫЛКІ ТРАС`УЦЦА (ТРАСЛ`ІСЯ, ЗАТРАС`УЦЦА, ЗАТРАСЛ`ІСЯ)** *у каго. У безас. ужыв. Разм. Іран.* Хто-н. адчувае вялікае хваляванне, вельмі спалохаўся. **Сін.**: аслаблі гайкі *ў каго, чые* (у 1 знач.); валасы становяцца дыбам *у каго*; вочы на лоб лезуць *у каго* (у 2 знач.); душа ў пятках *у каго*; душа ў пяткі <схавалася> *у каго*; калені дрыжаць *у каго*; кроў ледзянее *ў каго*; кроў у жылах стыне *ў каго*; мароз па скуры <прабягае> *у каго, каго чыёй*; мурашкі бегаюць па целе *ў каго, каго, чыім*; неба з аўчынку здаецца *каму,* скура шэрхне *на кім, у каго*; сэрца абрываецца *ў каго, чыё*; сэрца ледзянее *ў каго*; у пяткі кальнула *каму, каго* (у 1 знач.); <усе> блохі падохлі *ў каго.* *—А не перадумаў? — усё гэтак жа крыва ўсміхаючыся, Валерый глядзеў ва ўпор. — Паджылкі не трасуцца?* «Звязда». *Лукішкі былі вялікай жыццёвай школай. Калі туды трапляў звычайны вясковы хлопец, у якога паджылкі трэсліся пры сустрэчы з паліцыянтам або жандарам, то, прабыўшы ў Лукішках адпаведны час, ён выходзіў адтуль свядомым, перавыхаваным чалавекам.* Машара. *—Дзе ён жыве? —На пасёлку. У Мамонайцы. —Не аглядайся. Што, паджылкі затрэсліся? Мамчын сынок... Жывей кажы, як знайсці ягоную хату?* Левановіч.

*ПАДЗЕЛ* ● **ПАДЗ`ЕЛ СК`УРЫ НЕЗАБ`ІТАГА МЯДЗВ`ЕДЗЯ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Іран.* Заўчаснае размеркаванне

прыбытку ў яшчэ не зробленай справе. *Складвалася ўражанне.., што некаторых «апазіцыянераў» больш хвалюе падзел скуры незабітага мядзведзя.* «Нар. воля».

*ПАДЗЕННЕ* ● **ПАДЗ`ЕННЕ `АКЦЫЙ** *каго, чаго. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Зніжэнне ўплыву, значэння каго-, чаго-н. *Наменклатуршчыкі не маглі не зафіксаваць падзенне акцый палітыкі прэзідэнта.* «Нар. воля».

*ПАДЗЕЦЬ* ● **ДЗЕ ВОЧЫ ПАДЗЕЦЬ.** Гл. дзяваць.

**КУДЫ ПАДЗЕЦЬ <СВАЕ> РУКІ.** Гл. дзець.

**КУДЫ СЯБЕ ПАДЗЕЦЬ.** Гл. дзець.

*ПАДЗЬМЕ* ● **КУДЫ ВЕЦЕР ПАДЗЬМЕ.** Гл. вецер.

*ПАДКАВАЦЬ* ● **ПАДКАВ`АЦЬ БЛЫХ`У.** *Незак. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паказаць, праявіць надзвычайную вынаходлівасць у якой-н. справе. *—Дагуляецеся, пан саветнік, жартуеце з агнём. Зорын тут не пакінуў міны?.. —У вас ёсць якія-небудзь доказы? —На жаль, ніякіх. А толькі нешта не падабаецца мне ваш Зорын. Рускія блыху могуць падкаваць...* Гурскі. *Канструктары ўпэўнены, што ім у рэшце рэшт удасца падкаваць блыху, бо ўжо сёння на аўтаматычных лініях працуе 113 міні-робатаў, якія збіраюць вузлы і асобныя механізмы.* «Вожык».

*ПАДКАЛОДНАЯ* ● **ГАДЗІНА ПАДКАЛОДНАЯ.** Гл. гадзіна.

*ПАДКАЛОДНЫ* ● **ГАД ПАДКАЛОДНЫ.** Гл. гад.

*ПАДКАРАЦІЦЬ* ● **ПАДКАРАЦІЦЬ ЯЗЫК** *каму.* Гл. укараціць.

*ПАДКАЦІЎСЯ* ● **КАМЯК ПАДКАЦІЎСЯ ДА ГОРЛА** *<каму>.* Гл. камяк.

*ПАДКІНУЦЬ* ● **ПАДК`ІНУЦЬ (УК`ІНУЦЬ) АГН`Ю Ў Х`АТУ.** *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выклікаць сварку, пасварыць каго- з кім-н. **Сін**.: укінуць ката ў хату *чыю, каму. —І там падкінула агню ў хату... Што табе трэба? Што? —Ён [Корсак] нават прытупнуў.. ботам, успомніўшы пра Алесю, пра тыя нядаўнія хрэсьбіны, пра ўсё, што тады ўчыніла [Хрысця] у Ведравічах.* Адамчык.

*ПАДКЛАДАЦЬ* ● **ПАДКЛАДАЦЬ МІНУ** *пад каго пад што.* Гл. падводзіць.

**ПАДКЛАДАЦЬ СВІННЮ** *каму.* Гл. падкладваць.

*ПАДКЛАДВАЦЬ* ● **ПАДКЛАДВАЦЬ МІНУ** *пад каго, пад што.* Гл. падводзіць.

**ПАДКЛ`АДВАЦЬ (ПАДКЛАД`АЦЬ) СВІНН`Ю** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Цішком падстройваць непрыемнасць, подласць каму-н. **Сін**.: падводзіць міну *пад каго, пад што*; падводзіць пад дурнога хату *каго*; падводзіць пад манастыр *каго. [Дзед Мінай:] Падсобную гаспадарку завяла? Та-а-ак. Батрачку*

*трымаеш? Ой, глядзі, Малання, не падкладвай свінні майму сыну!* Э.Валасевіч. *Матушка вяла сваё: —Ну, то што? Хіба жаніхам свіней не падкладаюць?* Колас. **ПАДКЛАСЦІ (ПАДЛАЖЫЦЬ) СВІННЮ** *каму. Зак. А гэты прахвост бухгалтар ледзь не падвёў мяне... Дзе сваім вокам не дагледзіш, там табе і свінню могуць падкласці.* Сабаленка. *Альяшовы «трэція святчэннікі» падклалі госцю свінню — падсунулі пусты посуд...* Карпюк. *[Фёдар Мікалаевіч:] Падлажыў ты мне свінню, Павел Міхайлавіч* і *Прыйшлося чырванець у Савеце Міністраў.* Крапіва.

*ПАДКЛАДЗЕШ* • **Р`УКІ (РУК) НЕ ПАДКЛАДЗ`ЕШ (НЕ ПАДЛ`ОЖЫШ)** *пад каго. Зак. Часцей у абаг.-асаб. знач. Разм.* Не выратуеш каго-н. ад смерці, нічым не дапаможаш. *[Паліна:] Сынок мой! Ну што ж ты? Не трэба так, не вернеш іх. Рукі не падкладзеш, не паднімеш...* Макаёнак. *Крыху ачомаўшыся, яна [Лена] пачала разважаць: —Рукі ж не падкладзеш пад бацьку, хоць і шкада... Выйшлі гады.* Мыслівец. *[Рая:] «Што ты зробіш? У Клімянковых цэлы год стары ляжыць». Вось яно пакорлівае чаканне: што будзе, тое будзе; пад старога, маўляў, рукі не падложыш.* Шамякін. *[Кліменці:] Пад мёртвага рук не падложыць доктар...* Клімковіч.

*ПАДКЛАСЦІ* • **ПАДКЛАСЦІ МІНУ** *пад каго, пад што. Зак.* да **ПАДКЛАДВАЦЬ МІНУ** *пад каго, пад што.*

**ПАДКЛАСЦІ СВІННЮ** *каму. Зак.* да **ПАДКЛАДВАЦЬ СВІННЮ** *каму.*

*ПАДКОШАНЫ* • Падаць (упасці), валіцца і пад. **ЯК ПАДК`ОШАНЫ (-АЯ, -АЕ, -ЫЯ).** *Акал. Разм.* Імгненна. **Сін**.: як сноп. *Афіцэр упаў як падкошаны, нязграбна раскінуўшы рукі на жоўтым пяску.* Лынькоў. *Пайтарак, напрыклад, хапаў за рогі быка, заломваў яму галаву на спіну, і жывёліна як падкошаная падала на калені.* Карпюк. *Пачуўся кароткі глухі гук, і Вайтына як падкошаны паваліўся на падлогу.* Шальманаў.

*ПАДКРУЦІЦЬ* • **ПАДКРУЦІЦЬ ГАЙКІ** *каму. Зак.* да **ПАДКРУЧВАЦЬ ГАЙКІ** *каму.*

*ПАДКРУЧВАЦЬ* • **ПАДКР`УЧВАЦЬ Г`АЙКІ (-У)** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Павалічваць патрабаванні да каго-н., прымушаць каго-н. стаць больш актыўным, энергічным. **Сін**.: закручваць гайкі *каму.* **Ант**.: адпускаць гайкі; адпускаць лейцы. **ПАДКРУЦІЦЬ ГАЙКІ (-У)** *каму. Зак. А якая непаваротлівасць! Відаць, трэба пагаварыць з тваім начальнікам, каб ён падкруціў табе гайкі.* Мік.Ткачоў. *Слухаў [Кірэеў] сына і ўспамінаў, што бывалі выпадкі, калі Юра часам і падленьваўся ў вучобе. А варта было падкруціць яму гайку...* Гроднеў.

*ПАДКУТЫ* ● **<ЯК> ЧОРТАМ ПАДКУТЫ.** Гл. падшыты.

*ПАДЛАЖЫЦЬ* ● **ПАДЛАЖЫЦЬ МІНУ** *пад каго, пад што.* Гл. падводзіць.

**ПАДЛАЖЫЦЬ СВІННЮ** *каму.* Гл. падкладваць.

*ПАДЛІВАННЕ* ● **ПАДЛІВ`АННЕ М`АСЛА Ў АГ`ОНЬ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Абвастрэнне непрыязных адносін паміж кім-н. *Ніякіх аргументаў ён [Іван Пятровіч] знаць не знае і не слухае, наадварот, гэта толькі – падліванне масла ў агонь.* Колас.

*ПАДЛІВАЦЬ* ● **ПАДЛІВ`АЦЬ М`АСЛА Ў АГ`ОНЬ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. **1.** Абвастраць непрыязныя адносіны паміж кім-н., узмацняць якія-н. пачуцці, настрой і пад. **Сін.:** падліваць смалы ў агонь. *Угаворы з прэзідыума толькі падгарачвалі іх [баб], падлівалі масла ў агонь.* Зарэцкі. **ПАДЛІЦЬ МАСЛА Ў АГОНЬ**. *Зак. Яго [Башлыкова] пагроза падліла масла ў агонь. —Засудзіце? За нашае ж дабро! —Арыштуеце! За што?* Мележ. *Бацька адмовіўся, і гэта падліло масла ў агонь.* Якімовіч.

**2**. Выклікаць, павышаць цікавасць да чаго-н. *Дзед уважліва ўглядаецца ў акно, каб не прапусціць часам свой прыпынак. А вясёлы хлопец падлівае масла ў агонь, выдумляе ўсё пра балота ды камароў.* Прокша. **ПАДЛІЦЬ МАСЛА Ў АГОНЬ**. *Зак. Вось [Арцём Пятровіч] і падліў, што называецца, масла ў агонь: так расхваліў тое онава, што нават ёй, Верачцы, .. на нейкі час захацелася пажыць у тым лесе, сярод тых незвычайна добрых людзей-суседзяў.* Праскураў.

**ПАДЛІВ`АЦЬ СМАЛ`Ы Ў АГ`ОНЬ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Абвастраць непрыязныя адносіны паміж кім-н., узмацняць якія-н. пачуцці, настроі і пад. **Сін.**: падліваць масла ў агонь (у 1 знач.). *[Марыля:] Падумай толькі! Сымон раз'юшыўся і думаць не хоча, каб даваць якую раду ў гэтым бесперапыннні – усё суду нейкага чакае. А ты, а ты толькі яшчэ смалы падліваеш у гэты агонь...* Купала. *У нас на Беларусі і так, дзякаваць богу і добрым людзям, бяды і гора ўсякага хоць гаць гаці, дык нашто яшчэ падліваць смалы ў агонь?* Купала. **ПАДЛІЦЬ СМАЛЫ Ў АГОНЬ.** *Зак.*

*ПАДЛІЦЬ* ● **ПАДЛІЦЬ МАСЛА Ў АГОНЬ.** *Зак. да* **ПАДЛІВАЦЬ МАСЛА Ў АГОНЬ.**

**ПАДЛІЦЬ СМАЛЫ Ў АГОНЬ.** *Зак. да* **ПАДЛІВАЦЬ СМАЛЫ Ў АГОНЬ.**

*ПАДЛОЖЫШ* ● **РУКІ НЕ ПАДЛОЖЫШ** *пад каго.* Гл. падкладзеш.

*ПАДМАЗАЦЬ* ● **ПАДМАЗАЦЬ ПЯТКІ.** *Зак. да* **ПАДМАЗВАЦЬ ПЯТКІ.**

*ПАДМАЗВАЦЬ* ● **НІ Ў САЛДАТЫ НІ Ў МАТРОСЫ НІ ПАДМАЗВАЦЬ КАЛЁСЫ.** Гл. салдаты.

**ПАДМ`АЗВАЦЬ П`ЯТКІ (П`ЯТЫ).** *Праст. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ратавацца ўцёкамі; уцякаць. Часцей пра непрыяцеля. **Сін**.: аддаваць канцы (у 2 знач.); вастрыць лыжы *куды, адкуль* (у 2 знач.); выносіць ногі <*адкуль, ад каго*>; даваць дзёру; даваць драла; даваць драпака; даваць лататы; даваць махні-драла; даваць маху (у 2 знач.); даваць стракача *ад каго, адкуль, куды,* даваць у ногі; даваць ходу *адкуль, куды*; даваць цягу; змотваць вудачкі; зрабіць ногі (1 знач.); паказваць пяткі; паказваць спіну (у 2 знач.); рваць кіпці. *[Карнейчык:] Казалі ў горадзе, што панам пара пяткі падмазваць, нашы наступаць пачалі.* Крапіва. *Хутка, аднак, ваяўнічы бургамістр прымушаны быў пад націскам бранскіх партызан падмазваць пяткі разам з рэшткамі свайго разбітага атрада.* Лынькоў. **ПАДМАЗАЦЬ ПЯТКІ (ПЯТЫ).** *Зак. Сам пан ледзьве паспеў пяты падмазаць...* Чорны.

*ПАДМІНАЦЬ* ● **ПАДМІН`АЦЬ ПАД СЯБ`Е** *што, каго. Незак. Разм. Неадабр.* **1.** Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы і абстр. прадмета. Поўнасцю падпарадкоўваць сабе, сваёй волі. **Сін.**: браць верх (у 1 знач.); браць у <свае> рукі (у 1 знач.); віць вяроўкі *з каго*; выкручваць сырыцу *з каго*; ездзіць вярхом *на кім*; ездзіць на карку *чыім*; запрагаць у аглоблі *каго*; надзяваць аброць *на каго, на што*; надзяваць хамут *на каго*; надзяваць ярмо на шыю *каго, каму*; прыбіраць да рук (у 1 знач.); садзіцца на галаву *каму*; садзіцца на карак *каму, чый, каго* (у 1 знач); сціскаць у кулак *каго*; убіраць у <свае> рукі (у 1 знач.). *А пачварны час, як хіжая, тупая, жалезная машына, нахабна прэцца на цябе, падмінае пад сябе.* Купрэеў. **ПАДМЯЦЬ ПАД СЯБЕ** *што, каго. Зак. І калі Бэндэ падпарадкаваў, падмяў пад сябе крытыку і фактычна адзін ёю кіраваў, дык ва ўсім астатнім там былі свае лідэры – Я.Ліманоўскі, М.Лынькоў, А.Александровіч, М.Чарот, П.Галавач і інш.* Сачанка. *Спярша ён прыкінуўся ціхмянай, бяскрыўднай авечкай, неўзабаве ж увайшоў у сілу, паказаў зубы, падмяў пад сябе: паспрабуй толькі не дагадзі – адразу ж звольніць.* «Маладосць». *Багатыя – злыя на ўсё і ўсіх ад таго, што ім не даюць падмяць пад сябе ўсё-ўсякае.* Масарэнка. *А вось з роўнасцю і братэрствам пайшло не проста лягчэй, але так лёгка, што яны падмялі пад сябе нават сваю старэйшую сястру Свабоду.* Чобат.

**2.** Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета ці сукупнасці асоб. Сілай авалодаць чым-н. (часцей пра ўладу). **Сін.**: браць у <свае> рукі (у 3 знач.); залазіць у кішэнь *чыю, каго*; запускаць ляшча; запускаць руку *ў што, куды*; класці ў <сваю> кішэнь *што*; накладваць лапу (у 1 знач.); прыбіраць да рук (у 2 знач.); убіраць у <свае> рукі (у 2 знач.).

*Нямецкая ваенная машына адну за адной падмінала пад сябе здранцвелыя ад жаху краіны.* Скобла. **ПАДМЯЦЬ ПАД СЯБЕ** *што, каго. Зак. Страшная татарская навала падмяла пад сябе рускія гарады, але нас яна не зачапіла.* Іпатава. *Страшна тое, новагараджане, што сіла вялікая і злая ідзе на нас. Жамойту тэўтон падмяў пад сябе. Ідзе сюды. Нікога не пашкадуе.* Дайнека.

*ПАДМЯНІЛІ* ● **ЯК (НІБ`Ы) ПАДМЯН`ІЛІ** *каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. стаў зусім іншы (лепшы ці горшы). **Сін**.: як хто падмяніў *каго. Памагала мне на кухні і ўсе інстытуцкія навіны расказвала. А цяпер... як падмянілі дзяўчыну.* Шамякін. *[Пан:] Не трэба на мяне крыўдзіцца, суседзі. [Першая жанчына:] Глядзі, як заспяваў! [Маці:] Як быццам і не наш пан. [Другая жанчына:] Нібы яго падмянілі.* В.Вольскі. *[Вавіла:] Я і папругай вучыў — думаеш, памагло... А пачалі ў школе вывучаць трактар — як падмянілі хлопца. Кніжак розных нанёс, вінтоў, гаек, карбюратар, сядзіць, калупаецца...* Кудравец.

*ПАДМЯНІЎ* ● **ЯК ХТО ПАДМЯНІЎ** *каго.* Гл. хто.

*ПАДМЯЦЬ* ● **ПАДМЯЦЬ ПАД СЯБЕ** *што, каго. Зак. да* **ПАДМІНАЦЬ ПАД СЯБЕ** *што, каго.*

*ПАДНЕСЦІ* ● **ПАДНЕСЦІ ПІЛЮЛЮ** *каму. Зак. да* **ПАДНОСІЦЬ ПІЛЮЛЮ** *каму.*

*ПАДНІМАЕЦЦА* ● **РУКА НЕ ПАДНІМАЕЦЦА** *ў каго, чыя.* Гл. рука.

*ПАДНІМАЦЦА* ● **ПАДНІМАЦЦА З КАЛЕНЯЎ**. Гл. уставаць.

*ПАДНІМАЦЬ* ● **ПАДНІМАЦЬ НА НОГІ.** Гл. падымаць.

**ПАДНІМ`АЦЬ (ПАДЫМ`АЦЬ) ХВ`ОСТ.** *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Фанабэрачыся, не лічыцца з кім-н., не зважаць на каго-н. **Сін**.: драць нос; завысока ляцець; задзіраць хвост; капыліць нос; несці сябе высока; распускаць <павіны> хвост; хварэць на пана (у 2 знач.). *Ты ж знаеш, што цябе трэба вешаць як бальшавіцкую ак[ты]вістку. А ты яшчэ хвост паднімаеш!* Быкаў. *Чакаць два тыдні было нельга: «падвальныя» скааперавaліся з Пірагоўскай вуліцай і пачалі падымаць хвост.* Караткевіч. *Цьфу ты! Слабец, націна! А яшчэ хвост падымае.* Адамчык. **ПАДНЯЦЬ ХВОСТ.** *Зак. — Трэба машыну ганяць у любых умовах, па любых дарогах. Ясна?.. Калі ты выпрабавальнік, а не які-небудзь... — Глянь! Хвост падняў!* Карамазаў.

**ПАДНІМАЦЬ СЦЯГ** *чаго, чый.* Гл. узнімаць.

*ПАДНІМАЮЦЦА* ● **АКЦЫІ ПАДНІМАЮЦЦА** *чые, каго.* Гл. акцыі.

*ПАДНОЖКУ* ● **ДАВАЦЬ ПАДНОЖКУ** *каму.* Гл. даваць.

**СТАВІЦЬ ПАДНОЖКУ** *каму.* Гл. ставіць.

*ПАДНОЖНЫ* ● **ПАДНОЖНЫ КОРМ.** Гл. корм.

*ПАДНОСІЦЬ* ● **ПАДН`ОСІЦЬ ПІЛ`ЮЛЮ (ПІЛ`ЮЛЬКУ)** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць або рабіць што-н. непрыемнае, крыўднае. **ПАДНЕСЦІ ПІЛЮЛЮ (ПІЛЮЛЬКУ)** *каму. Зак. — Так, паднёс ты мне, Беражкоў, пілюльку! — кажа начальнік аддзела кадраў.* Васілёнак.

*ПАДНОСКІ* ● **НА ХАДУ ПАДНОСКІ АДРЫВАЕ.** Гл. адрывае.

*ПАДНЯБЕННЯ* ● **ЯЗЫК ПРЫСОХ <ДА ПАДНЯБЕННЯ>** *у каго, каму.* Гл. язык.

*ПАДНЯБЕССІ* ● **ЛУНАЦЬ У ПАДНЯБЕССІ.** Гл. лунаць.

*ПАДНЯТЫМ* ● **З ПАДНЯТЫМ ЗАБРАЛАМ.** Гл. забралам.

*ПАДНЯЦЦА* ● **ПАДНЯЦЦА З КАЛЕНЯЎ**. *Зак. да* **ПАДНІМАЦЦА З КАЛЕНЯЎ.**

**ПАДНЯЦЦА НА НОГІ.** *Зак. да* **ПАДЫМАЦЦА НА НОГІ.**

**ПАДНЯЦЦА НА ШЧЫТ.** *Зак. да* **ПАДЫМАЦЦА НА ШЧЫТ.**

*ПАДНЯЦЬ* ● **ПАДНЯЦЬ ВОЧЫ** *на каго, на што. Зак. да* **ПАДЫМАЦЬ ВОЧЫ** *на каго, на што.*

**ПАДНЯЦЬ ГАЛАВУ.** *Зак. да* **ПАДЫМАЦЬ ГАЛАВУ.**

**ПАДНЯЦЬ ГОЛАС.** *Зак. да* **ПАДЫМАЦЬ ГОЛАС.**

**ПАДНЯЦЬ МЕЧ** *на каго, супраць каго. Зак. да* **ПАДЫМАЦЬ МЕЧ** *на каго, супраць каго.*

**ПАДН`ЯЦЬ НА КРЫЛ`О** *каго. Зак. Функц. не зам.* **1.** Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Змусіць узляцець, паляцець, адляцець. Пра птушак. *Адшчыраваў пчаліным звонам ліпень, і жнівень вырай на крыло падняў…* Законнікаў.

**2.** Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вырасціць, выхаваць, давёўшы да самастойнасці. **Сін.**: падняць на ногі (у 2 знач.); паставіць на крыло; паставіць на ногі (у 2 знач.). *Палессе для В.Казько і яго персанажаў – гэта не проста куточак, дзе яны нарадзіліся, раслі, паднялі на крыло дзяцей.* «Полымя».

**ПАДНЯЦЬ НА НОГІ.** *Зак. да* **ПАДЫМАЦЬ НА НОГІ.**

**ПАДНЯЦЬ НА СМЕХ** *каго, што. Зак. да* **ПАДЫМАЦЬ НА СМЕХ** *каго, што.*

**ПАДНЯЦЬ НА ШЧЫТ** *каго, што. Зак. да* **ПАДЫМАЦЬ НА ШЧЫТ** *каго, што.*

**ПАДНЯЦЬ НА ЯЗЫК** *каго, што. Зак. да* **ПАДЫМАЦЬ НА ЯЗЫК** *каго, што.*

**ПАДНЯЦЬ РУКУ.** *Зак. да* **ПАДЫМАЦЬ РУКУ.**

**ПАДНЯЦЬ СЦЯГ** *чаго, чый.* Гл. узнімаць.

**ПАДНЯЦЬ ХВОСТ.** *Зак. да* **ПАДНІМАЦЬ ХВОСТ.**

**ЯК ПАДН`ЯЦЬ.** *Азн. Разм.* Важкі, цяжкі. *Давай яго [сома] сюды, у торбу. Як падняць, між іншым, здабыча.* Савіцкі. *Багацця, Адоля*

*казала, Ірачка з сабою панавезла — аж у трох чамаданах. Як падняць кожны.* Гігевіч. *На самых топкіх, гіблых імшарынах пад гусеніцы клалі тоўстыя, як падняць, бярвёны.* «ЛіМ».

*ПАДОБНАГА* ● **НІЧОГА ПАДОБНАГА.** Гл. нічога.

*ПАДОБНЫ* ● **НА Ч`ОРТА ПАД`ОБНЫ (-АЯ, -АЕ, -ЫЯ)**. *Азн. і вык. Разм. Неадабр.* Знешне непрывабны, непрыгожы. Пра чалавека ці канкрэтны прадмет. *– Ну, а цяпер я трохі абмыюся ды пагалюся, а то на чорта падобны, – вінавата ўсміхнуўся [Кавальчук], бы нашкодзіў перад жонкай.* Дзятлаў. *Тады бяры вядзерца з кузава і памый барты і колы. На чорта машына падобная.* Савіцкі. [*Лепешаў*, с. 50: на чорта пахожы.]

*ПАДОЛЕ* ● **ПРЫНОСІЦЬ У ПАДОЛЕ.** Гл. прыносіць.

*ПАДОХЛІ* ● **МУХІ ПАДОХЛІ.** Гл. мухі.

**БЛОХІ ПАДОХЛІ** *ў каго.* Гл. блохі.

*ПАДПЕРЦІ* ● **ПАДПЕРЦІ ПЛЯЧОМ** *каго. Зак. да* **ПАДПІРАЦЬ ПЛЯЧОМ** *каго.*

*ПАДПЁРТЫ* ● **ВАРОТЫ ПІРАГАМІ ПАДПЁРТЫ** *ў каго.* Гл. вароты.

*ПАДПІЛАВАЦЬ* ● **ПАДПІЛАВАЦЬ РОГІ** *каму. Зак. да* **ПАДПІЛОЎВАЦЬ РОГІ** *каму.*

*ПАДПІЛОЎВАЦЬ* ● **ПАДПІЛ`ОЎВАЦЬ Р`ОГІ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Уціхамірваць, утаймоўваць, рабіць больш памяркоўным каго-н., прымушаць пакарыцца. **Сін**.: абламаць рогі *каму*; паказаць месца *каму*; паставіць на <сваё> месца; скруціць рогі *каму. А за сталом маўчком сядзелі. Там хлопцы гыркацца не смелі, бо там парадак вельмі строгі, там падпілуюць табе рогі, калі парушыш дысцыпліну...* Колас. *Я стаяў у парозе і думаў: позна вучыць чалавека ў такія гады, позна яму і падпілоўваць рогі.* Гроднеў. **ПАДПІЛАВАЦЬ РОГІ** *каму. Зак. Будзь у меру добрым, строгім, не лезь, як кажуць, у «тузы». А не, дык падпілуюць рогі...* Скрыпка.

*ПАДПІРАЦЬ* ● **ПАДПІР`АЦЬ (АБЦІР`АЦЬ) ВУГЛ`Ы.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Бяздзейнічаць, туляцца без справы. **Сін**.: біць лынды (у 2 знач.); круціць вала <за хвост> (у 1 знач.); сядзець склаўшы рукі. *[Іван:] Вам на пасяўную ды ўборачную, а зімой я вам не трэба! Шэсць месяцаў паўбезработным туляўся, вуглы падпіраў!* Макаёнак. *Як вуглы абціраць ды ў чужыя грады лазіць, хай лепей — каласы збіраць.* Янкоўскі.

**ПАДПІР`АЦЬ ПЛЯЧ`ОМ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Падтрымліваць каго-н., аказваць дапамогу каму-н. **Сін**.: браць на буксір *каго*; падаваць руку <дапамогі> *каму*; падстаўляць плячо *каму*; цягнуць за вушы *каго.* **ПАДПЕРЦІ ПЛЯЧОМ** *каго. Зак.*

*Было заўжды прыемна, што недзе побач жывуць дужыя мужчыны, якія памогуць у бядзе і, калі патрэбна, падапруць плячом.* Мікуліч.

**ПАДПІР`АЦЬ СЦЯН`У.** *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не ўдзельнічаючы ў танцах, стаяць у памяшканні. Часцей пра таго, хто не ўмее танцаваць. *Яны танцавалі дзяўчына з дзяўчынай, у іх быў «матрыярхат», бо партнёраў не хапала, а стаяць, падпіраць сцяну, пакуль моцны пол зверне на цябе ўвагу, не хацелася.* Дайнека. *Васіль, як заўсёды, стаяў збоку, падпіраючы сцяну, і не спускаў вачэй з Валі, якую напярэймы вадзілі хлопцы ў круг.* Гіль.

*ПАДПІСАЦЦА* ● **ПАДПІСАЦЦА АБЕДЗВЮМА РУКАМІ** *пад чым. Зак. да* **ПАДПІСВАЦЦА АБЕДЗВЮМА РУКАМІ** *пад чым.*

*ПАДПІСВАЦЦА* ● **ПАДП`ІСВАЦЦА АБ`ЕДЗВЮМА РУК`АМІ** *пад чым. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ахвотна і поўнасцю згаджацца з чым-н. **Сін**.: галасаваць абедзвюма рукамі *за каго, за што.* **ПАДПІСАЦЦА АБЕДЗВЮМА РУКАМІ** *пад чым. Зак. Прыгнёт ненавідзіць [Мікола Браніборскі], сялян тады вызваліць сам прапанаваў, абедзвюма рукамі падпісаўся пад Раткевічавай запіскай.* Караткевіч.

*ПАДПІТКУ* ● **НА ПАДП`ІТКУ.** *Вык. і акал. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У стане лёгкага ап'янення. **Сін**.: на брывах; на вушах; на ўзводзе; пад газам; пад градусам; пад мухай; пад хмяльком; пад чаркай; пад шафэ. *Гуты абое былі ўжо на падпітку.* Каліна. *Ці ты позна прыйшоў, ці рана, ці цвярозы, ці на падпітку.. — усё адно не дагодзіш [жонцы], знойдзе, да чаго прыдрацца.* Гіль.

*ПАДПЛЕЦЕНЫ* ● **<ЯК> ЧОРТАМ ПАДПЛЕЦЕНЫ.** Гл. падшыты.

*ПАДПУСКАННЕ* ● **ПАДПУСК`АННЕ ШП`ІЛЕК.** *Мн. не ўжыв. Дзейн. і дап. Разм. Неадабр.* Падкольванне каго-н., гаварэнне чаго-н. з'едлівага, непрыемнага. *Такія цяпер былі паміж імі адносіны – у стане затухання... Усе гэтыя папрокі, уздыхі, падпусканне шпілек з яе боку і скаванасць, угодлівасць, перабольшаная ветлівасць – з яго...* Федарэнка.

*ПАДПУСКАЦЬ* ● **ПАДПУСК`АЦЬ ЛЁСТАЧКІ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Лісліва хваліць каго-н., дагаджаць каму-н. з карыслівай мэтай. **Сін**.: віляць хвастом (у 2 знач.); гнуцца ў дугу <перад кім>; гнуцца ў тры пагібелі *перад кім*; гнуць спіну *перад кім*; ламаць шапку *перад кім*; лізаць боты *каму*; падаць лістам *перад кім*; поўзаць на каленях *перад кім*; рассыпацца драбней маку *перад кім*; рассыпацца <дробным> макам *перад кім*; слацца лістам *перад кім*; станавіцца на заднія лапкі *перад кім*; хадзіць на задніх лапках *перад кім*; хадзіць на пальчыках *перад кім. З Раманам трэба інакш:*

*ласкавым цялём падкаціцца, клясціся ў вернасці і адданасці, падпускаць лёстачкі — ён гэта любіць.* Блакіт. **ПАДПУСЦІЦЬ ЛЁСТАЧКІ** *каму. Зак. [Куторга:] Ды вось і Марыся ідзе сюды. Якая красачка!.. А ну, Куторга, падпусці ёй лёстачкі...* Дунін-Марцінкевіч.

**ПАДПУСК`АЦЬ ТУР`УСЫ НА КАЛ`ЁСАХ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выдумляць, маніць. **Сін**.: заліваць кулі *каму*; заліваць пушку *каму*; разводзіць турусы на калёсах. *Пастукаўшы ў дзверы гасцінічнага нумара і атрымаўшы дазвол увайсці, ён не стаў, як гэта звычайна робяць дзецюкі пры знаёмстве з жанчынамі, разводзіць антымонію ці падпускаць турусы на калёсах, а дакладна, амаль па-ваеннаму адрэкамендаваўся: — Следчы абласной пракуратуры Мікалай Іванавіч Баркоўскі.* Б.Стральцоў. **ПАДПУСЦІЦЬ ТУРУСЫ НА КАЛЁСАХ** *каму. Зак.*

**ПАДПУСК`АЦЬ ШП`ІЛЬКУ (-І)** *каму. Незак. Разм. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць што-н. непрыемнае, з'едлівае; падколваць каго-н. **Сін**.: падпускаць шпількі пад пазногці *каму. Яна [жонка] знарок падпускала яму шпількі, каб ён пачаў гарачыцца, каб сказаў тое, чаго не хацеў.* Дамашэвіч. *Давыд.. шпількі падпускае спадцішка, захоўваючы на драбнаватым тварыку поўную сур'ёзнасць.* Навуменка. **ПАДПУСЦІЦЬ ШПІЛЬКУ (-І)** *каму. Зак. Васіль заўсёды многа гаварыў, не прамінаў выпадку падпусціць шпільку кожнаму са сваіх таварышаў, але за гэта ніхто на яго не крыўдзіўся.* Жураўскі.

**ПАДПУСК`АЦЬ ШП`ІЛЬКУ ПАД ПАЗН`ОГЦІ** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дапякаць, прычыняць душэўны боль з'едлівымі намёкамі ў размове. **Сін**.: падпускаць шпільку *каму. Самой Зосі ў вочы адкрыта гэтага не гаварылі, але часцяком падпускалі ёй шпількі пад пазногці* Крапіва. **ПАДПУСЦІЦЬ ШПІЛЬКУ ПАД ПАЗНОГЦІ** *каму. Зак.*

**ПАДПУСКАЦЬ <ЧЫРВОНАГА> ПЕЎНЯ** *<каму, куды, дзе>.* Гл. пускаць.

*ПАДПУСЦІЦЬ* ● **ПАДПУСЦІЦЬ ЛЁСТАЧКІ** *каму. Зак. да* **ПАДПУСКАЦЬ ЛЁСТАЧКІ** *каму.*

**ПАДПУСЦІЦЬ ТУРУСЫ НА КАЛЁСАХ** *каму. Зак. да* **ПАДПУСКАЦЬ ТУРУСЫ НА КАЛЁСАХ** *каму.*

**ПАДПУСЦІЦЬ <ЧЫРВОНАГА> ПЕЎНЯ** *<каму, куды, дзе>. Зак. да* **ПАДПУСКАЦЬ <ЧЫРВОНАГА> ПЕЎНЯ** *<каму, куды, дзе>.*

**ПАДПУСЦІЦЬ ШПІЛЬКУ** *каму. Зак. да* **ПАДПУСКАЦЬ ШПІЛЬКУ** *каму.*

**ПАДПУСЦІЦЬ ШПІЛЬКУ ПАД ПАЗНОГЦІ** *каму. Зак. да* **ПАДПУСКАЦЬ ШПІЛЬКУ ПАД ПАЗНОГЦІ** *каму.*

*ПАДРАЗАЦЬ* ● **ПАДРАЗ`АЦЬ КР`ЫЛЫ (КР`ЫЛЛЕ)** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Перашкаджаць каму-н. шырока разгарнуць сваю дзейнасць, праявіць свае сілы, здольнасці. **Сін**.: абразаць крылы *каму, у каго*; завязваць свет *каму* (у 1 знач.); засланяць <увесь, божы> свет *каму* (у 2 знач.); звязваць па руках і нагах *каго*; звязваць рукі *каму*. **Ант**.: развязваць рукі *каму*. *Навокал гаварылі: вось гэты чалавек занадта хоча лётаць — і Понтус на карысць справе падразаў крылы кар'ерысту.* Карпаў. **ПАДРЭЗАЦЬ КРЫЛЫ (КРЫЛЛЕ)** *каму. Зак. Каторы рабіць не лянуецца, то і тут жыве... Вайна толькі цяпер крылы падрэзала.* Лобан. *Я ёй, праўда, крылле падрэзаў — сядзібку па самыя вуглы адшахаў.* Шамякін.

**ПАДРАЗАЦЬ ПАД КОРАНЬ** *каго, што.* Гл. секчы.

**ПАДРАЗ`АЦЬ П`ЯТЫ (П`ЯТКІ)** *каму. Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даганяць пярэдняга касца, быць вельмі блізка ад яго. *Каса ў Петрыка маленькая — захват вузкі. Ён мне «падразае пяты», але хутка стамляецца, садзіцца адпачыць на пульхны пракос.* Жычка. **ПАДРЭЗАЦЬ ПЯТЫ (ПЯТКІ)** *каму. Зак. [Касцы] не даруюць толькі аднаго: калі не можаш, а рвешся першым. З ходу пяткі падрэжуць, а то і зусім з пракоса выставяць*. Кірэйчык.

*ПАДРЭЗАЦЬ* ● **ПАДРЭЗАЦЬ КРЫЛЫ** *каму. Зак. да* **ПАДРАЗАЦЬ КРЫЛЫ** *каму.*

**ПАДРЭЗАЦЬ ПАД КОРАНЬ** *каго, што. Зак. да* **ПАДРАЗАЦЬ ПАД КОРАНЬ** *каго, што.*

**ПАДРЭЗАЦЬ ПЯТЫ** *каму. Зак. да* **ПАДРАЗАЦЬ ПЯТЫ** *каму.*

**ПАДРЭЗАЦЬ ЯЗЫК** *каму.* Гл. укараціць.

*ПАДСАДНАЯ* ● **ПАДСАДНАЯ КАЧКА.** Гл. качка.

*ПАДСМАЛЕНЫ* ● *Бегчы, ляцець* і пад. **ЯК ПАДСМ`АЛЕНЫ (-АЯ, -АЕ, -ЫЯ).** *Акал. Разм.* Вельмі хутка. **Сін**.: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы*; без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсіх парах; на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар. **Ант**.: як чарапаха. *На падводзе трэба было б ехаць, але ж ты ўсё любіш з форсам, «з вецярком»... І па бездарожжы гоніш машыну як падсмалены.* Рылько. *Іван ляцеў назад ад шашы. Як падсмалены.*

Клебановіч. *Нехта ўспамінае Васіліну, і ўсе дружна загаворваюць пра яе — балазе самой Васіліны на падмурку чамусьці сёння няма. — Убачыла і паперлася як падсмаленая!* Гіль.

*ПАДСОСЕ* ● **НА ПАДС`ОСЕ** <u>жыць, быць, сядзець</u> і пад. *Акал. Праст.* Бедна, у нястачы, адчуваючы матэрыяльныя цяжкасці. *Думаў, што ты, бедны-разбедны, на падсосе ўсю дарогу сядзеў, галадаў. А калі прачуў, што ў цябе ёсць нейкая «рука* свая», *усумніўся.* Масарэнка. *На падсосе сяджу, і ўсе кішэні ў мяне ветрам высвістаны, бо жонка толькі рубель на наедак адшкадавала.* Шлег.

*ПАДСТАВІЦЬ* ● **ПАДСТАВІЦЬ ГАЛАВУ ПАД КУЛІ.** *Зак. да* **ПАДСТАЎЛЯЦЬ ГАЛАВУ ПАД КУЛІ.**

**ПАДСТАВІЦЬ НОЖКУ** *каму. Зак. да* **ПАДСТАЎЛЯЦЬ НОЖКУ** *каму.*

**ПАДСТАВІЦЬ ПАД УДАР** *каго, што. Зак. да* **ПАДСТАЎЛЯЦЬ ПАД УДАР** *каго, што.*

**ПАДСТАВІЦЬ ПЛЯЧО** *каму. Зак. да* **ПАДСТАЎЛЯЦЬ ПЛЯЧО** *каму.*

**ПАДСТАВІЦЬ <СВАЮ> ГАЛАВУ.** *Зак да* **ПАДСТАЎЛЯЦЬ <СВАЮ> ГАЛАВУ.**

**ПАДСТАВІЦЬ <СВАЮ> ГАЛАВУ ПАД АБУХ.** *Зак. да* **ПАДСТАЎЛЯЦЬ <СВАЮ> ГАЛАВУ ПАД АБУХ.**

*ПАДСТАЎЛЯЦЬ* ● **ПАДСТАЎЛ`ЯЦЬ ГАЛАВ`У (Л`ОБ) ПАД КУЛІ (-Ю).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рызыкаваць жыццём у баі. *Там цяжка, а тут яшчэ горш: ідзі вось, падстаўляй галаву пад кулі. Я ўжо чацвёрты раз гэтак вось іду ў акопы.* Галавач. *—Хе, Люся! — іранічна хмыкае Лёшка. — Мы тут вось галовы пад кулі падстаўляем, а яна там з тылавікамі мілуецца.* Быкаў. *[Салавейчык:] А навошта табе ісці ў армію або ў партызаны? Навошта табе падстаўляць лоб пад кулю? Ты і так пражывеш во за такімі дубовымі варотамі!* Лупсякоў. **ПАДСТАВІЦЬ ГАЛАВУ (ЛОБ) ПАД КУЛІ (-Ю).** *Зак.*

**ПАДСТАЎЛ`ЯЦЬ Н`ОЖКУ (НАГ`У)** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знарок шкодзіць, рабіць непрыемнасці каму-н. **Сін**.: даваць падножку *каму*; заступаць дарогу *каму*; перабягаць дарогу *каму*; псаваць абедню *каму*; ставіць падножку *каму*; ставіць палкі ў кола *каму, чаго*; станавіцца на дарозе *чыёй, каму, чаму*; станавіцца папярок дарогі *каму, чыёй*; стаяць на дарозе *чыёй, у каго*; стаяць папярок дарогі *каму, каго.* **Ант**.: саступаць з дарогі (у 2 знач.); сыходзіць з дарогі. *Ва ўсіх няўдачах яна [Петрунея] вінаваціла толькі іншых, што падстаўляюць ножку Вінцэсю, але не яго.* Місько. *Вы са мной што зрабілі? Вы мне ходу не*

*далі. Абы толькі я пачынаў спрабаваць пачаць якую-небудзь хоць дробную справу — вы мяне асаджвалі, вы падстаўлялі мне нагу.* Чорны. **ПАДСТАВІЦЬ НОЖКУ (НАГУ)** *каму. Зак. Ён настойліва авалодваў бухгалтарскай мудрасцю, каб не маглі падставіць ножку ў рабоце.* Пальчэўскі. *Дзеўка была важна, ды сусед Кандрат мне нагу падставіў — «Асадзі назад!»* Колас.

**ПАДСТАЎЛ\`ЯЦЬ ПЛЯЧ\`О** *каму. Незак. Функц. не зам. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Падтрымліваць каго-н., аказваць дапамогу каму-н. **Сін**.: браць на буксір *каго*; падаваць руку <дапамогі> *каму*; падпіраць плячом *каго*; цягнуць за вушы *каго. Але Носке!.. Ён не з такіх, каб дзяліцца славай, каб падстаўляць плячо іншаму.* Гамолка. **ПАДСТАВІЦЬ ПЛЯЧО** *каму. Зак. Нехта прапанаваў: — Калі не здолееш — з пасады адпусцім, але будзь ганаровым старшынёй. Дзе новы не пацягне, ганаровы падставіць плячо.* Грахоўскі. *У іх [Марыны і Чэкана] агульная прафесія, агульныя знаёмыя, ім трэба час ад часу гаварыць, дзяліцца чымсьці вельмі важным, а ў цяжкую хвіліну плячо падставіць...* Радкевіч.

**ПАДСТАЎЛ\`ЯЦЬ <СВА\`Ю> ГАЛАВ\`У (Л\`ОБ).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рызыкаваць жыццём; нарывацца на небяспеку. **Сін**.: падстаўляць <сваю> галаву пад абух; шукаць гуза на сваю галаву; шукаць сабе пятлі <на шыю>. *А падушацца хай яны. Нашто мне сваю галаву падстаўляць. Зубы павыбіваюць, астануся без зубоў. Адгрызацца не будзе чым.* Мурашка. *[Лукашык] хоча трохі пасядзець убаку і паглядзець, куды хіліць. Яму няма за што і няма за каго падстаўляць галавы...* Дамашэвіч. *У гестапа таксама не дурні сядзяць, каб з-за нейкага начальніка паліцыі свой лоб падстаўляць.* Паўлаў. **ПАДСТАВІЦЬ <СВАЮ> ГАЛАВУ (ЛОБ).** *Зак. З воч маіх шафёрскіх матай скарэй... За Чарнушку рашыў сваю галаву падставіць? Давай-давай...* Пташнікаў.

**ПАДСТАЎЛ\`ЯЦЬ <СВА\`Ю> ГАЛАВ\`У ПАД АБ\`УХ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ставіць сябе пад небяспеку, нарывацца на непрыемнасці. **Сін**.: падстаўляць <сваю> галаву; шукаць гуза на сваю галаву; шукаць сабе пятлі <на шыю>. *Я не жадаю, каб ты падстаўляў галаву пад абух.* Карпаў. *[Ліхтароў:] Я рызыкаваць не хачу. [Кавальчук:] Не бойся. Цябе падводзіць не збіраюся. І другі подпіс на сябе бяру. [Цярэшка:] А не шкада сваю галаву падстаўляць пад абух?* Макаёнак. **ПАДСТАВІЦЬ <СВАЮ> ГАЛАВУ ПАД АБУХ.** *Зак.*

**ПАДСТАЎЛ\`ЯЦЬ (СТ\`АВІЦЬ) ПАД УД\`АР** *каго, што. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ствараць пагрозлівае, крытычнае становішча для каго-, чаго-н. **Сін**.: без нажа рэзаць *каго*;

падводзіць пад абух *каго*; ставіць пад абух *каго. — Што ты падстаўляеш мяне пад удар? — адразу пытае Пылец, ківаючы на аб'яву.* Шамякін. *— Але ж Кунцэвіч падстаўляў пад удар Абабурку... — У гэтым-то ўвесь фокус.* Шыцік. *Ты мой падначалены і не маеш права ставіць пад удар усю справу.* Чарнышэвіч. **ПАДСТАВІЦЬ (ПАСТАВІЦЬ) ПАД УДАР** *каго, што. Зак. [Русаковіч:] Праз сваіх падхалімаў распускае чуткі сярод рабочых, што я хачу ўвесь завод пад удар паставіць.* Крапіва.

*ПАДСТУПІЎ* • **КАМЯК ПАДСТУПІЎ ДА ГОРЛА** <*каму*>. Гл. камяк.

*ПАДСЫПАЦЬ* • **ПАДСЫПАЦЬ ПЕРЦУ** *каму.* Гл. усыпаць.

*ПАДСЯВАЮЧЫ* • **МАЛОЦЬ НЕ ПАДСЯВАЮЧЫ.** Гл. малоць.

*ПАДСЯКАЦЬ* • **ПАДСЯКАЦЬ СУК, НА ЯКІМ СЯДЗІШ.** Гл. секчы.

*ПАДТАПТАЦЬ* • **ПАДТАПТАЦЬ ПАД НОГІ.** *Зак. да* **ПАДТОПТВАЦЬ ПАД НОГІ.**

*ПАДТОПТВАЦЬ* • **ПАДТ`ОПТВАЦЬ ПАД Н`ОГІ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. *каго.* Зняважліва адносячыся да каго-н., падпарадкоўваць сваёй волі, сваёй уладзе. **Сін**.: выціраць ногі *аб каго*. **ПАДТАПТАЦЬ ПАД НОГІ** *каго***.** *Зак. [Антаніна Пятроўна:] Далёка вельмі глядзіць гэты твой вучань. Каб не падтаптаў ён пад ногі самога настаўніка.* Крапіва. *[Лявон:] Гэта парка яшчэ сябе пакажа, хутка ўсю вёску падтопча пад ногі.* Козел.

**2**. *што.* Чарніць, няславіць. **Сін**.: абліваць граззю *каго, што*; вешаць сабак *на каго, на што*; выліваць памыі *на каго*; выліваць бруд на галаву *каго*; закідваць граззю *каго*; кідацца граззю; кідаць каменем *у каго*; кідаць цень *на каго, на што* (у 1 знач.); ліць бруд *на каго*; мазаць дзёгцем *каго, што*; мяшаць з граззю *каго, што*; мяшаць з зямлёй (у 3 знач.); наводзіць цень *на каго, на што*; таптаць у гразь *каго, што.* **ПАДТАПТАЦЬ ПАД НОГІ** *што. Зак. [Курбатаў:] Колькі непрыемнасцей прыносяць вось такія тыпы, як Моцкін ды Печкуроў!.. Дзеля сваёй карысці яны гатовы самае святое, самае чыстае падтаптаць пад ногі.* Макаёнак.

*ПАДТОЧЫЦЦ* • **КАМАР НОСА НЕ ПАДТОЧЫЦЬ.** Гл. камар.

*ПАДТУЛІЦЬ* • **ПАДТУЛІЦЬ ХВОСТ.** *Зак. да* **ПАДТУЛЬВАЦЬ ХВОСТ.**

*ПАДТУЛЬВАЦЬ* • **ПАДТ`УЛЬВАЦЬ (ПАДЦІСК`АЦЬ) ХВ`ОСТ (ХВАСТ`Ы).** *Незак. Праст. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Спалохаўшыся чаго-н., станавіцца больш асцярожным, траціць самаўпэўненасць. **Сін**.: задаваць труса; труса святкаваць. **ПАДТУЛІЦЬ (ПАДЦІСНУЦЬ) ХВОСТ (ХВАСТЫ).** *Зак. Сілу трэба супрацьпаставіць сіле. Бачыць немец нашу слабасць і лезе. А калі атрымае здачы, то, нябось, падтуліць хвост.* С.Александровіч. *Краўцу стала сорамна за сябе, за Рунца, за ўсіх... Як яны накінуліся*

*на Урбановіча! Зграяй! А як потым адскочылі і падтулілі хвасты!* Карпаў. *Ідзі, ідзі, погань буржуйская... Бач, хвост падціснуў, калі на лапы наступілі...* Лынькоў. *У час ваеннага камунізму Сроіл падціснуў хвост. Карчму давялося закрыць, разніцу — таксама...* Корбан.

*ПАДУМАЦЬ* ● **ПАД`УМАЦЬ Т`ОЛЬКІ.** *Выкл. Разм.* Выказванне здзіўлення, захаплення і пад. у сувязі з незвычайнасцю чаго-н. *Падумаць толькі, нейкі год назад з Піліпа цяжка было слова выцягнуць, а цяпер гаворыць ужо не менш чвэрці гадзіны і ні разу нават вачэй не апусціў...* Пестрак. *Хапае ў людзей нахабства прыносіць такое ў рэдакцыю! Сказа напісаць не можа, а бярэцца за раман, эпапею! Падумаць толькі — эпапею!* Сачанка. *Учора мне стукнула дваццаць. Падумаць толькі: ужо цэлых дваццаць!* Прыгодзіч.

*ПАДХАПІЦЬ* ● **ПАДХАПІЦЬ НА ЯЗЫКІ** *каго, што. Зак.* да **ПАДХОПЛІВАЦЬ НА ЯЗЫКІ** *каго, што.*

*ПАДХВАЦЕ* ● **НА ПАДХВ`АЦЕ (НА ПАДХ`ОПЕ).** *Праст.* **1**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн са знач. асобы. У становішчы часовага выкарыстання для выканання розных даручэнняў (быць). *[Лявон] заўсёды, калі што трэба, звяртаецца да Зосі. Яна ў яго на падхваце.* Сабаленка. *Я вазіў угнаенне, насенне, акрамя таго, што прыходзілася дастаўляць прадукты, ездзіць з дырэктарам або загадчыкам у райцэнтр і, наогул, быць на падхваце.* Радкевіч. *Я ж быў у гаспадарцы яшчэ ўсё «на падхопе», больш, каля дому, маме памагаў...* Брыль.

**2**. *Акал.* Вельмі блізка, побач, каля сябе (быць, ляжаць, знаходзіцца і пад.). **Сін**.: пад рукой (у 1 знач.). *Падняў [дзед] над галавою калун, які ляжаў тут жа, на дрывотні, на падхваце.* Сачанка.

*ПАДХОДЗЕ* ● **НА ПАДХОДЗЕ.** Гл. падыходзе.

*ПАДХОПЕ* ● **НА ПАДХОПЕ.** Гл. падхваце.

*ПАДХОПЛІВАЦЬ* ● **ПАДХ`ОПЛІВАЦЬ НА ЯЗЫК`І** *каго, што. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даведаўшыся пра што-н., паспешліва распаўсюджваць пачутае, абгаворваць каго-, што-н. **Сін**.: браць на язык *каго*; падымаць на язык *каго, што.* **ПАДХАПІЦЬ НА ЯЗЫКІ** *каго, што. Зак. Пісаць адказ няма каму: ні адраса, ні прозвішча няма. Адна дарога — у печ [ананімку], і нікому ні гу-гу. Каб толькі бабы на языкі не падхапілі.* Грахоўскі.

*ПАДЦЕРЦІ* ● **ПАДЦ`ЕРЦІ (УЦ`ЕРЦІ) Н`ОС** *каму. Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даказаць каму-н. сваю перавагу ў чым-н. **Сін**.: даць фору *каму*; заткнуць за пояс *каго*; наставіць нос *каму. Падумаў тут Хвядос хвіліну, памармытаў, пачухаў спіну, пасля сказаў: — Малакасос, але падцёр старому нос.* Крапіва. *Каб мне хто даў такія пакрышкі на месяц, на тыдзень, на суткі... Я б Чаркашыну*

*вашаму нос падцёр...* Пташнікаў. *А каб я сам умеў пісаць, дык я многа каму нос уцёр бы.* Колас. *От так, брат, дзяўчо, а нам усім нос уцёрла.* Кузьмянкоў.

*ПАДЦІСКАННЕ* ● **ПАДЦІСК`АННЕ ХВАСТ`А**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Праст. Іран.* Залішняя асцярожнасць, страта самаўпэўненасці. *Людзям сапраўды патрэбен мір. Але ж не схаваўшыся пад зямлёю здабываць яго – не скавытаннем, не падцісканнем хваста ў хвіліну небяспекі, а смелым, разумным і сумленным дзеяннем.* Радкевіч.

*ПАДЦІСКАЦЬ* ● **ПАДЦІСКАЦЬ ХВОСТ.** Гл. падтульваць.

*ПАДЦІСНУЦЬ* ● **ПАДЦІСНУЦЬ ХВОСТ.** *Зак. да* **ПАДЦІСКАЦЬ ХВОСТ.**

*ПАДЦЯГВАЛА* ● **ПАДЦ`ЯГВАЛА (ПАДЦЯГН`УЛА) ЖЫВ`ОТ (ЖЫВАТ`Ы, Д`УХ, ДУХ`І)** *каму, у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. вельмі галодны, змарнеў, галадае. **Сін**.: жывот да спіны прырос *чый, у каго* (у 1 знач.); кішкі марш іграюць *у каго*; салаўі пяюць у жываце *ў каго. Касцы падселі к кусту, дасталі з торбы хлеба лусту, збан малака ды кожны сваю лыжку і пачалі сярбаць пакрышку. А Фінця ім глядзела ў рот (і ёй падцягвала жывот).* Крапіва. — *Ты праўду кажаш, дзед,* — *прызнаўся Чубар.* — *Жывот даўно падцягнула.* Чыгрынаў. *На хлеб вялікі цяпер запрос, жываты ў людзей падцягнула...* Галавач. *Я ж пасля вайны галодная хадзіла, дух падцягвала, спадніца на мне не трымалася, а калі хоць бульбіну ўзяла?* Гіль. *У твар цярушыць стрэчны дожджык. Есці хочацца — падцягнула духі.* Брыль.

*ПАДЦЯГВАЦЬ* ● **ПАДЦЯГВАЦЬ ПАЯСЫ.** Гл. зацягваць.

*ПАДЦЯГНУЛА* ● **ПАДЦЯГНУЛА ЖЫВОТ** *каму, у каго.* Гл. падцягвала.

*ПАДЦЯГНУЦЬ* ● **ПАДЦЯГНУЦЬ ПАЯСЫ.** *Зак. да* **ПАДЦЯГВАЦЬ ПАЯСЫ.**

*ПАДЧАПІЦЬ* ● **ПАДЧАП`ІЦЬ (ЗЛАВ`ІЦЬ) НА КРУЧ`ОК (НА В`УДАЧКУ)** *каго. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ашукаўшы, выведаць што-н. важнае; перахітрыць. *Пракляты бар! Тут ён [Пушысты] падчапіў на кручок Каністру, тут ён звязаўся з гэтаю Валяй! Не трэба было яму сёння прыходзіць сюды!* А.Жук. *З раніцы міліцыянер да нас заходзіў, машыну аглядаў... Штосьці вынюхваў. Няпроста ўсё гэта. Добра, што хоць паспелі замяніць гуму. А то злавілі б нас на кручок.* «Звязда». *Э, не! Бабейку злавіць на вудачку не проста. Выбачайце!* Хадкевіч.

*ПАДШЫТЫ* ● **ВАЎК`ОМ ПАДШ`ЫТЫ (-АЯ, -АЕ, -ЫЯ).** *Вык. і азн. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі сярдзіты, з затоенай злосцю. *Гутфельд даў трохі часу паварушыцца тубыльцам*

*у мулкіх крэслах, нават перамовіцца, падумаўшы сабе — няхай.. і яны пабрэшуць на свой хвост, а то некаторыя ваўком падшыты.* Чыгрынаў.

**ПАДШ`ЫТЫ (-АЯ, -АЕ, -ЫЯ) В`ЕТРАМ (ВЯТР`АМІ).** *Азн. і вык. Разм. Жарт.* Які прапускае холад, дрэнна саграваае. Пра адзенне і жыллё. **Сін**.: на рыбіным футры; падбіты ветрам (у 1 знач.). *У падшытых вятрамі намітках мы ідзём да ягонай труны.* Глебка. *Сяргей Фёдаравіч, дужа цябе прашу: глядзі за Варатніцкім!.. Беражы! Выдай яму і другім, у каго ватоўкі ветрам падшытыя, новыя шынялі.* Хацкевіч. *І хоць грубка дыхала жарам, але дом на Апанскага быў падшыты ветрам. Ноччу, каб не замерзнуць, я паверх коўдры накінуў яшчэ і сваё паліто.* Танк.

**ПАДШ`ЫТЫ ЛІС`ІЦАЙ.** *Азн. і вык. Разм. Неадабр.* Вельмі хітры і лжывы. Пра чалавека. **Сін**.: ад яйка адліць; з-пад сучкі яйцо ўкрадзе. *[Агата:] Такі спрытнюга, што з-пад сучкі грошы выкрадзе. Проста лісіцай падшыты!* Махнач.

**<ЯК, Б`ЫЦЦАМ> Ч`ОРТАМ ПАДШ`ЫТЫ (ПАДК`УТЫ, ПАДПЛ`ЕЦЕНЫ).** *М., ж., н.; адз. і мн. Азн. і вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. **1**. Вельмі хуткі, рухавы. *Мікіта быў нізкі і вяртлявы, быццам чортам падшыты, мог цэлы дзень, беспрастанку, бегаць па вёсцы.* Чыгрынаў. *Люблю, як санкі мчацца з плачам, пісклявы гімн зіме заводзяць, а конь, падкуты чортам, скача, нібы па пекле, па гладкім лёдзе.* Чарот. *[Сцёпка] зусім маладзенькі, яшчэ дзіця, але які дасціпны... Чортам падплецены!..* Гурскі.

**2**. *Неадабр.* Хітры і шкадлівы. *Ідзі [загані свіней], а то пабягуць на вуліцу. Тады набегаешся за імі. Яны як чортам падшытыя.* Баранавых. *Ці ж іх не ведаеш, што за людзі? А ўсе — і бацькі, і сыны — чортам падшытыя. З імі ніколі ладу не дабярэш.* Янкоўскі.

*ПАДЫМАЕЦЦА* ● **РУКА НЕ ПАДЫМАЕЦЦА** *ў каго, чыя.* Гл. рука.

*ПАДЫМАЙ* ● **ПАДЫМАЙ ВЫШЭЙ.** Гл. бяры.

*ПАДЫМАЦЦА* ● **ПАДЫМАЦЦА З КАЛЕНЯЎ.** Гл. уставаць.

**ПАДЫМ`АЦЦА (УЗНІМ`АЦЦА) НА Н`ОГІ.** *Незак. Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Папраўляцца пасля хваробы, ачуньваць, выздараўліваць. **Сін**.: станавіцца на ногі (у 1 знач.); уставаць на ногі (у 1 знач.). **ПАДНЯЦЦА (УЗНЯЦЦА) НА НОГІ.** *Зак. Бацька ж мой, як толькі падняўся на свае ногі, дык не толькі зграбаў на рынку сена.* Гарэцкі. *Адзінаю ўцехаю ў жыцці куткавога Лаўрэна быў сынок Мікалай. Двое меншых дзяцей ён пахаваў, — не ўзняліся яны на ногі ў голадзе ды холадзе.* Якімовіч.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачынаць весці самастойнае

жыццё. **Сін**.: станавіцца на ногі (у 2 знач.). **ПАДНЯЦЦА (УЗНЯЦЦА) НА НОГІ.** *Зак. Шкада маткі, бо яна нездараўчаная вельмі. Хто яе ведае, ці пажыве яна доўга на свеце. Мы то не прападзём — мы ж усе ўжо ўзняліся на ногі, але яна як...* Чорны.

**3**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Папраўляць, паляпшаць матэрыяльнае становішча. **Сін**.: набіраць сілу (у 2 знач.); станавіцца на ногі (у 3 знач.); убірацца ў пер'е (у 2 знач.); убірацца ў сілу (у 4 знач.); уставаць на ногі (у 2 знач.). **ПАДНЯЦЦА (УЗНЯЦЦА) НА НОГІ.** *Зак. Знячэўку маці аж прысела — так пераборка ўжо дадзела! Апроч таго, тут абжыліся, на ногі трохі падняліся...* Колас. *Сяк-так [маці] паднялася на ногі, крыху абжылася, — каторы ўжо год, як вярнуліся ў пустыя вуглы, на голае поле.* Брыль. *Дзяржава штогод дапамагала Альхоўцы насеннай пазыкай, але ўсё роўна калгас марудна ўзнімаўся на ногі.* Хадкевіч.

**4**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці зборн. прадмета. Пачынаць энергічна, актыўна дзейнічаць. **ПАДНЯЦЦА (УЗНЯЦЦА) НА НОГІ.** *Зак. Прачытаўшы петыцыю, пан не драмаў: на тройцы коней панёсся ён у павятовы горад Л. проста да маршалка. Усё начальства паднялося на ногі.* Колас.

**ПАДЫМ`АЦЦА (УЗНІМ`АЦЦА) НА ШЧ`ЫТ.** *Незак. Функц. не зам. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Празмерна расхвальвацца. *У пачатку 60-х гадоў узнімалася на шчыт праграма фарсіраванага будаўніцтва камунізму.* «ЛіМ». **ПАДНЯЦЦА (УЗНЯЦЦА) НА ШЧЫТ.** *Зак.*

**ПАДЫМ`АЦЬ НА СМ`ЕХ** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Высмейваць каго-, што-н. *—Настаўнік.. быццам хоча праверыць, колькі лап можа вытрымаць гэты свавольнік, які проста падымае яго на смех перад усёй школай — адмаўляецца адказваць на яго пытанні.* Якімовіч. **ПАДНЯЦЬ НА СМЕХ** *каго, што. Зак. Калі яны [Мірон і Віктар] сказалі аб сваім плане некаторым з таварышаў, дык тыя паднялі іх на смех: — Ну і выдумалі! Якая карысць ад такога падарожжа, які сэнс?* Маўр.

**ПАДЫМ`АЦЬ НА ЯЗ`ЫК (НА ЯЗЫК`І)** *каго, што. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіць каго-, што-н. аб'ектам размоў, насмешкі, распаўсюджваючы пачутае. **Сін**.: браць на язык *каго*; падхопліваць на языкі *каго, што.* **ПАДНЯЦЬ НА ЯЗЫК (НА ЯЗЫКІ)** *каго, што. Зак. Ну іх! Будуць пальцамі паказваць і трубіць на цэлы свет — рады на язык падняць нашага брата.* Колас. *[Яніна:] Мой бацька не гэтак заскача, як пачуе, што я Лявона кахаю. [Надзя:] І пачуе, бо людзі паднялі ўжо на языкі.* Козел.

*ПАДЫМАЦЬ* ● **ПАДЫМ`АЦЬ (ПАДНІМ`АЦЬ, УЗНІМ`АЦЬ) НА Н`ОГІ.**

*Незак. Функц. не зам.* **1**. *каго.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці рэчыўнага прадмета. Вылечваць. **Сін**.: ставіць на ногі (у 1 знач.). **Ант**.: валіць з ног (у 2 знач.). **ПАДНЯЦЬ (УЗНЯЦЬ) НА НОГІ** *каго. Зак. — Не нам, рабочым людзям, хварэць, — сказала Тонька. — Мы яго хутка падымем на ногі, хутчэй нават за ўрачоў.* «Полымя».

**2**. *каго.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Расціць, выхоўваць, даводзячы да самастойнасці. **Сін**.: ставіць на крыло *каго*; ставіць на ногі (у 2 знач.). **ПАДНЯЦЬ (УЗНЯЦЬ) НА НОГІ** *каго. Зак. У добрых жа людзей спакон веку такая завядзёнка: старэйшы памагае падняць на ногі малодшага.* Гроднеў. — *Дамаўляйцеся вы ўжо з маладою, мне жыць на гэтым свеце мала засталося, — сказала Наталля. — А яна няхай сама глядзіць, як жыць надалей, як хлопца на ногі падняць...* Далідовіч.

**3**. *што.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Умацоўваць, рабіць больш трывалым. **Сін**.: ставіць на ногі (у 3 знач.). **ПАДНЯЦЬ (УЗНЯЦЬ) НА НОГІ** *што. Зак. Ён [гаспадар] ведае, чаму і як разбурана гаспадарка, як яе падняць на ногі і з чаго пачынаць.* Чорны.

**4**. *каго, што.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Прымушаць актыўна, энергічна дзейнічаць. **Сін**.: ставіць на вушы *каго, што*; ставіць на ногі (у 5 знач.). *Паднімаю атрад на ногі, падкрадваемся пад хутар, залягаем у жыце.* Карпюк. *[Калібераў:] Ідзіце і зараз жа ўзнімайце ўсіх на ногі Збярыце актыў і штурмуйце.* Макаёнак. **ПАДНЯЦЬ (УЗНЯЦЬ) НА НОГІ** *каго, што. Зак. Іван ведаў, што немцы іх так не пакінуць, пэўна, яны паднялі ўжо на ногі ўсю ахову, паліцыю, сабак.* Быкаў. *А я кажу: трэба ўсіх узняць на ногі, хто толькі ўмее страляць, і ў акопы разам з чырвонаармейцамі.* Галавач.

**5**. *каго, што.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Рабіць перапалох, хваляваць, бударажыць. *Мястэчка і тэатр! [Хіба] малое дзіва? Што і казаць — бударажыла людзей, паднімала на ногі маладога і старога...* Гартны. **ПАДНЯЦЬ (УЗНЯЦЬ) НА НОГІ** *каго, што. Зак. [Скаромны:] Я ўвесь свет падніму на ногі!* Макаёнак. *Работнічкі! На пяць хвілін рамонту, а яны ўвесь раён на ногі ўзнялі... палітыку развялі...* Шамякін.

**ПАДЫМАЦЬ СЦЯГ** *чаго, чый.* Гл. узнімаць.

**ПАДЫМ`АЦЬ (УЗНІМ`АЦЬ) В`ОЧЫ** *на каго, на што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Глядзець на каго-, што-н. **Сін**.: ускідваць вочы *на каго. Абдзіраючы ліпкую шкурку з бульбін, Васіль хмурыў лоб і ўсім сваім выглядам паказваў, што ён зусім не бянтэжыцца, што яму ведама, як належыць у такім разе трымацца мужчыну, але вачэй на Ганну не падымаў.* Мележ. *Лявон.. хацеў*

*загаварыць з Хведарам, пажартаваць, але ўбачыў, што той ўсё яшчэ злуецца, не хоча ўзнімаць вачэй, — змаўчаў.* Кудравец. **ПАДНЯЦЬ (УЗНЯЦЬ) ВОЧЫ** *на каго, на што. Зак. Дзед Талаш падняў вочы на гэты каржакаваты гузасты дуб з магутнымі лапамі, як бы чакаючы адказу на свае сумненні.* Колас.

**ПАДЫМ`АЦЬ (УЗНІМ`АЦЬ) ГАЛАВ`У (ГАЛ`ОВЫ).** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці зборн. прадмета. Адчуўшы ўпэўненасць, станавіцца смелым, пачынаць актыўна дзейнічаць. *Парадзіцца ў гэтай справе няма з кім, тым больш гэта патрэбна цяпер, калі прыціхшая паліцэйшчына пачынае падымаць галаву і робіць расправу з сялянствам, паўстаўшым супраць паноў.* Колас. **ПАДНЯЦЬ (УЗНЯЦЬ) ГАЛАВУ (ГАЛОВЫ).** *Зак. Як прыйшлі былі палякі, Скуратовіч падняў галаву.* Чорны. *Неспакойна ў горадзе. Пошасць розная галаву ўзнімае.* Мележ.

**ПАДЫМ`АЦЬ (УЗНІМ`АЦЬ) Г`ОЛАС.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Рашуча выказваць сваю думку, выступаць. *[Таварышы] раілі не скарацца пакорліва перад гаспадарамі і ўзнімаць голас за свае правы.* Броўка. **ПАДНЯЦЬ (УЗНЯЦЬ) ГОЛАС.** *Зак. Досыць было мне трошку падняць голас, як адзін з іх, мусіць, загадчык ці старшы майстар, унтэр з нашыўкамі, схапіў мяне за локаць і выпіхнуў на вуліцу.* Гарэцкі.

**2**. *на каго.* Гаворачы з раздражненнем, гучней, чым звычайна, прабіраць каго-н. **Сін**.: павышаць голас *на каго. А ты на мяне голасу не падымай. Не хочаш слухаць — не рабі кепства.* Клебановіч. **ПАДНЯЦЬ (УЗНЯЦЬ) ГОЛАС** *на каго. Зак. Яна расказала далей. Як яны дружна век пражылі, як ён ні разу нават голасу на яе не падняў.* Брыль. *—Не баюся я цябе! — апошнія словы яна сказала ўзняўшы голас.* Колас.

**ПАДЫМ`АЦЬ (УЗНІМ`АЦЬ) М`ЕЧ** *на каго, супраць каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці зборн. прадмета. Выступаць са зброяй, ваяваць супраць каго-н. **ПАДНЯЦЬ (УЗНЯЦЬ) МЕЧ** *на каго, супраць каго. Зак. Прыгадаем слёзы, здзекі тупарылай мопсе, так, каб немец на век-векі меч падняць зарокся.* Колас. *За адвечную крыўду і слёзы меч паднялі і бацька, і сын...* Кляшторны. *Ён [паэт] выкрывае шляхты змову, што ўзняла зноў меч іржавы супроць Расійскае дзяржавы.* Дзяргай.

**ПАДЫМ`АЦЬ (УЗНІМ`АЦЬ) НА ШЧ`ЫТ** *каго, што. Незак. Функц. не зам. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці зборн. прадмета. Адзывацца з пахвалой, расхвальваць. **Сін**.: курыць фіміям *каму*; пець дыфірамбы *каму, чаму*; спяваць асанну *каму, чаму*; спяваць песні *каму*; узносіць да нябёс *каго, што. Мы гаворым аб*

*небяспечным уплыве антыгуманістычнай літаратуры, таму што гэту літаратуру і гэта мастацтва сёння падымае буржуазія на свой шчыт, прапагандуе яе, прадстаўляе для яе трыбуну, друк, радыё, тэлебачанне, экран.* Танк. *Падымаем чалавека на шчыт, а ці закружыцца ў яго галава — бог-бацька, як кажуць, ведае.* Асіпенка. *Што, маўляў, таптаць ляжачага? І не топчуць, а ўзнімаюць на шчыт — зробім прыемнае чалавеку, нас ад гэтага не ўбудзе.* Радкевіч. *Сярод іх [музейных работнікаў] ёсць людзі апантаныя, адданыя справе. Пра іх трэба пісаць, узнімаць на шчыт.* Мальдзіс. **ПАДНЯЦЬ (УЗНЯЦЬ) НА ШЧЫТ** *каго, што. Зак.*

**ПАДЫМ`АЦЬ (УЗНІМ`АЦЬ) РУК`У.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. *на каго.* Спрабаваць ударыць; біць каго-н. *[Лёкса] пасля доўга таіла злосць на яго [мужа] і плакала, і прычытала: як гэта так, падымаць руку на маці сваіх дзяцей.* Кудравец. **ПАДНЯЦЬ (УЗНЯЦЬ) РУКУ** *на каго. Зак. Ніхто яшчэ не падняў на яе [Сцепаніду] руку — ні бацька на малую, ні якая радня, ні потым Пятрок.* Быкаў. *Як жа гэта адважыцца, мой божа, узняць на чалавека руку!* Чорны.

**2**. *на каго, на што.* Рабіць замах на чыё-н. жыццё. **ПАДНЯЦЬ (УЗНЯЦЬ) РУКУ** *на каго, на што. Зак. [Пані Яндрыхоўская:] Божа літасцівы!.. Хай грымне пёрун і спапяліць ушчэнт нягоднікаў, што паднялі руку на верную служку тваю.* Крапіва. *Ніхто, разумееш, абсалютна ніхто не мае права падняць руку на жыццё іншага чалавека.* Радкевіч.

**3**. *на што.* Асмельвацца што-н. зрабіць. **ПАДНЯЦЬ (УЗНЯЦЬ) РУКУ** *на што. Зак. Ён [працоўны селянін] куды больш глыбока ўспрымае прыроду, ніколі не падніме руку на яе хараство.* Шкраба.

**4**. *на каго, на што, супраць каго, супраць чаго.* Уступаць у барацьбу з кім-, чым-н. **ПАДНЯЦЬ (УЗНЯЦЬ) РУКУ** *на каго, на што, супраць каго, супраць чаго. Зак. Хай жа руку на нас, як гад, падыме вораг-ліхадзей,— не вернецца жывым назад, — свабодных не скаваць людзей!* Купала. *Нямецкія і аўстрыйскія рабочыя скажуць вам гнеўнае «не», калі падымеце руку на рэвалюцыйную Расію.* Губарэвіч. *Сённяшні дзень застанецца вам у памяці, як прыклад таго, што бывае і будзе з кожным, хто асмеліцца узняць руку супраць улады і закона.* Самуйлёнак.

**ПАДЫМАЦЬ ХВОСТ.** Гл. паднімаць.

*ПАДЫМАЮЦЦА* • **ВАЛАСЫ ПАДЫМАЮЦЦА ДЫБАМ** *у каго.* Гл. валасы.

*ПАДЫХОДЗЕ* • **НА ПАДЫХ`ОДЗЕ (НА ПАДХ`ОДЗЕ).** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. У блізкай перспектыве.

*Між тым, на каго тады ў інстытуце не спадзяваліся, на каго тады, як гаворыцца, махнулі рукою, дабіліся многага. Той жа Андрэйчык — кажуць, доктарская на падыходзе.* Гілевіч. *На падыходзе будаўніцтва інстытуцкага корпуса.* Карпаў. *Тады заўтра ж пачнём касіць. Жыта вунь на падходзе.* Асіпенка.

*ПАДЭШВЫ* ● **НА ХАДУ ПАДЭШВЫ АДРЫВАЕ.** Гл. адрывае.

*ПАЕДЗЕШ* ● **ДАЛЁКА НЕ ПАЕДЗЕШ** *на чым, з чым, без чаго.* Гл. заедзеш.

*ПАЕСЦІ* ● **<УС`Е> ЖД`АНКІ (ЧАК`АНКІ) ПА`ЕСЦІ.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Страціць надзею дачакацца чаго-, каго-н. *Мы тут сядзім і ўсе жданкі паелі, а яна там мілуецца сабе — не намілуецца.* «Маладосць». *Стары мой, мусіць, раззлаваўся моцна... Тамака, на гары... Чакаў-чакаў, калі памру, дый усе чаканкі паеў. А я ўсё жыву, усё не слухаюся яго...* Тычына.

*ПАЕЎ* ● **МАЛА КАШЫ ПАЕЎ.** Гл. еў.

*ПАЕХАЛА* ● **І ПАЙШЛО <І> ПАЕХАЛА.** Гл. пайшло.

**СТРАХА ПАЕХАЛА** *ў каго.* Гл. дах.

*ПАЕХАЎ* ● **ДАХ ПАЕХАЎ** *у каго.* Гл. дах.

*ПАЕХАЦЬ* ● **ВЯРХ`ОМ ПА`ЕХАЦЬ** *на кім. Зак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць прыгнятаць, здзекавацца з каго-н., выкарыстоўваць каго-н. у сваіх інтарэсах. *Сярод амаль беспярапыннага тлуму вуха ўлавіла жаночы голас: – Не, не! Маўчыце! Не скаруся! Раз яму саступі, другі – вярхом паедзе!* Калодзежны.

**ПА`ЕХАЦЬ АД (СА) СМ`ЕХУ (АД Р`ОГАТУ, З Р`ОГАТУ).** *Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гучна і нястрымна засмяяцца, зарагатаць. **Сін**.: бакі рваць; брацца за жываты; качацца са смеху; надрываць жываты <ад смеху>; пакаціцца са смеху; паміраць ад смеху. *Пры гэтых словах увесь клас паехаў з рогату, а кніжка, якая была ў руках настаўніка, паляцела ў галаву Васілька.* Крапіва. *Хвядзько аж паехаў ад рогату: —Тваёй жонцы патрэбен трошкі маладзейшы, Ха-ха-ха!* Лобан.

**ПАЕХАЦЬ ДА АБРАМА НА ПІВА.** Гл. адпраўляцца.

*ПАЖАДАЕ* ● **ДУША ПАЖАДАЕ.** Гл. душа.

**КОЛЬКІ ДУША ПАЖАДАЕ.** Гл. душа.

*ПАЖАР* ● **НЕ НА ПАЖ`АР.** У *безас. ужыв. Разм.* Няма чаго спяшацца. **Сін**.: дождж за карак не лье; за шыю не капае; не гарыць *у каго*; не капае *над кім, над чым*; паспееш з козамі на торг. *Канваір хоча весці Федасюка, але Дзяцел затрымлівае. [Дзяцел:] Пачакай. Не на пажар!* Мележ. *—Табе заўтра ісці, а ў мяне яшчэ нічога не пашыта для цябе, не гатовая я яшчэ цябе выправіць. —Дык не на пажар, паспееш... — Калі б не на пажар...* І.Капыловіч.

**ЯК НА ПАЖ`АР.** *Акал. Разм.* Вельмі хутка, імкліва (бегчы, ляцець, несціся, гнаць і пад.). **Сін**.: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы*; без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсіх парах; на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як падсмалены. **Ант**.: як чарапаха. *Што ў цябе там сталася, што ты ляціш як на пажар?* Лынькоў. *Усе просяць, каб я спяшалася як на пажар. Усім трэба хутчэй.* Мележ. *[Дабрагост:] Вось падвяла дачка старога ёлупа! Ці ж гэта б я ляцеў як на пажар? Сто раз казала: «Толькі на біёлага!» І раптам — на табе... Нічога жарт!* Гілевіч.

*ПАЖАРНЫ* ● **НА ЎСЯКІ ПАЖАРНЫ ВЫПАДАК.** Гл. выпадак.

*ПАЖАРНЫМ* ● **У ПАЖАРНЫМ ПАРАДКУ.** Гл. парадку.

*ПАЖАЦЬ* ● **ПАЖАЦЬ ЛАЎРЫ.** *Зак. да* **ПАЖЫНАЦЬ ЛАЎРЫ.**

**ПАЖАЦЬ ПЛАДЫ** *чаго. Зак. да* **ПАЖЫНАЦЬ ПЛАДЫ**.

*ПАЖЫНАЦЬ* ● **ПАЖЫН`АЦЬ Л`АЎРЫ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Карыстацца плёнам поспеху. *Прабачце, а хіба таму ж чынадралу не патрэбен ваш поспех? Хоць бы для таго, каб пажынаць лаўры. Чаму ж ён ставіць перашкоды?* «Звязда». **ПАЖАЦЬ ЛАЎРЫ.** *Зак. Насця Федарынчык таксама, напэўна, пажала нямала лаўраў у мясцовых гледачоў.* Васілевіч.

**ПАЖЫН`АЦЬ ПЛАД`Ы** *чаго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Карыстацца вынікамі чаго-н. зробленага, дасягнутага. *[Антаніна Пятроўна:] А што ж, няпраўда, што Русаковіч пажынае плады твае працы?* Крапіва. *Спакусіўшыся працэнтаманіяй, некаторыя школьныя адміністратары пажынаюць зараз плады «майстэрства», далёкага ад педагогікі.* Вітка. *Цырымонімся з графаманамі, апякаем, накіроўваем парадамі. І потым самі ж пажынаем плады.* «ЛіМ». **ПАЖАЦЬ ПЛАДЫ** *чаго. Зак. – Што гэта робіцца, чын?.. – Вы ж хацелі такога жыцця. І радуйся яму. Яшчэ не такія плады пажняце.* Шамякін.

*ПАЗАЛАЦІЦЬ* ● **ПАЗАЛАЦІЦЬ РУКУ** *каму. Зак. да* **ЗАЛАЦІЦЬ РУКУ** *каму.*

*ПАЗАЛІВАЦЬ* ● **ПАЗАЛІВ`АЦЬ В`ОЧЫ**. *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. сукупнасці асоб. Панапівацца спіртнога (пра ўсіх, многіх). *– Каб і вам так выкапалі [магілу] ... – Пазалівалі вочы, –*

*прабурчаў Антонік, хоць бачыў, што «капачы» былі пакуль што цвярозыя.* Наварыч. **ПАЗАЛІЦЬ ВОЧЫ**. *Зак. Гэтак мяне пахрысціўшы, вязуць назад ужо да маткі, вочы добра пазаліўшы, ледзьве ўняслі да хаткі.* Багушэвіч.

**ПАЗАЛІЦЬ ВОЧЫ.** *Зак. да* **ПАЗАЛІВАЦЬ ВОЧЫ.**

*ПАЗБІРАЕШ* ● **<І> ЗУБОЎ НЕ ПАЗБІРАЕШ.** Гл. збярэш.

*ПАЗДАРОВІЦЦА* ● **НЕ ПАЗДАР`ОВІЦЦА** *каму. У безас. ужыв. Разм.* Будуць значныя непрыемнасці, будзе дрэнна каму-н. *—Калоды ў Нямеччыну пойдуць, —сказаў Рыгор. —А немцы на ўсё вочы лупяць. Барані бог, забракуюць ці цану збавяць — пан тады са свету мяне зжыве. Ды і ўсім нам не паздаровіцца.* Якімовіч. *Гэта не апраўданне!.. Калі праз гадзіну прыстань не будзе гатова, вам не паздаровіцца.* Дамашэвіч. *У любую мінуту на хлопцаў мог наскочыць фрыц або паліцай, і тады б не паздаровілася...* Курто.

*ПАЗЕЛЯНЕЛА* ● **ПАЗЕЛЯНЕЛА Ў ВАЧАХ** *у каго, каго.* Гл. цямнее.

*ПАЗІРАЕ* ● *Чый* **НАСОК ПАЗІРАЕ Ў ПЯСОК**. Гл. насок.

*ПАЗІРАЦЬ* ● **ПАЗІРАЦЬ ПРАЗ ПАЛЬЦЫ** *на каго, на што.* Гл. глядзець.

**ПАЗІРАЦЬ У КУСТЫ.** Гл. глядзець.

*ПАЗІЦЫІ* ● **ЗДАВАЦЬ <СВАЕ> ПАЗІЦЫІ.** Гл. здаваць

*ПАЗНАЕШ* ● **<І> СВА`ІХ НЕ ПАЗН`АЕШ.** *Зак. Часцей ужыв. у форме 2 ці 3-й ас. адз. і мн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Надоўга запомніш, атрымаўшы моцнае пакаранне. Звычайна як пагроза. *[Агата:] Вось я цябе зараз, тудэма-сюдэма, як высвенчу гэтай пляшкай па галаве, дык ты і сваіх не пазнаеш...* Купала. *[Нарэйка:] Я яму павешу! Я яму так павешу, што ён і сваіх не пазнае...* Зуб. *Дай, каб сваіх не пазнаў...* Юрчанка.

*ПАЗНАЦЦА* ● **ПАЗН`АЦЦА НА ФАРБАВ`АНЫХ ЛІС`АХ.** *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адчуць, зведаць на ўласным вопыце чые-н. хітрыкі, падман. *Не кідайце ж вялікіх абманных лозунгаў аб сваіх заходніх ці ўсходніх пяршынствах. На хварбаваных лісах даўно ўжо людзі пазналіся.* Купала. [Параўн. у *Янкоўскага*, с. 216: *ліса фарбаваць* – ‘быць няшчырым, выкручвацца хітруючы’.]

*ПАЗНОГАЦЬ* ● **НА <С`ІНІ, Ч`ОРНЫ> ПАЗН`ОГАЦЬ (ПАЗН`ОГЦІК).** *Акал. Разм.* **1**. Трошачкі, ледзь-ледзь. **Сін**.: на волас (у 1 знач.); на макулінку (у 1 знач.). *Ціток.., не ўбачыўшы ні аднаго чалавека, хто б яму хоць на пазногаць душу меў, скарэй пакульгаў ад гэтых людзей наперад.* Лобан. *[Жыгліцкая:] Брыгадзір, рука старшыні, а чым ён памог нам калі хоць на чорны пазногцік?* Козел.

**2**. *Ужыв. у адмоўн. ск.* Ніколі, зусім (не даваць, не дараваць, не

рабіць і пад.). **Сін**.: на волас (у 2 знач.); на <ломаны> грош; на макулінку (у 2 знач.); на мезены палец; на панюх табакі (у 2 знач.); на шэлег (у 2 знач.); ні божа мой; ні грама; ні каліва; ні кроплі; ні на <адзін> шэлег (у 1 знач.); ні на волас; ні на грам (у 1 знач.); ні на гран; ні на грош; ні на ёту; ні на каліва; ні на кроплю; ні на макава зерне; ні на макулінку. *[Мішка Бацян] крыўды нават на пазногаць нікому не даруе.* Шальманаў. *Я ж для вас на сіні пазногаць нічога добрага не зрабіў.* Дубоўка.

*ПАЗНОГЦІ* ● **ПАДПУСКАЦЬ ШПІЛЬКУ ПАД ПАЗНОГЦІ** *каму.* Гл. падпускаць.

*ПАЗУХАЙ* ● **КАМЕНЬ ЗА ПАЗУХАЙ.** Гл. камень.

**НАСІЦЬ КАМЕНЬ ЗА ПАЗУХАЙ.** Гл. насіць.

**ЯК У БОГА ЗА ПАЗУХАЙ.** Гл. бога

*ПАЗУХУ* ● **ГОЛАМУ ЗА ПАЗУХУ.** Гл. голаму.

*ПАЗЫЧ* ● **ХОЦЬ ПАЗ`ЫЧ (ПАЗЫЧ`АЙ)** *каму чаго. Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм.* У каго-н. хапае, празмерна многа чаго-н. **Сін**.: не пазычаць *каму чаго. Тэмпераменту і энергіі ў яго [Вольнага] — хоць пазыч каму.* Лужанін. *Свайго, будзённага клопату было хоць каму пазычай.* Сачанка. *А розных клопатаў у старшыні — хоць пазычай каму.* Блакіт.

**ХОЦЬ Т`Ы Ў САБ`АКІ ВАЧ`ЭЙ (В`ОЧЫ) ПАЗ`ЫЧ (ПАЗЫЧ`АЙ)** *каму. Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм.* Вельмі сорамна, непрыемна. **Сін.**: хоць скрозь зямлю праваліся *каму. — Ой, Валодзя, — кажу, а самому, зноў жа, хоць у сабакі вачэй пазыч, — дык жа мне ўжо во, Шмулька — абагнаў [бульбу] і пабаранаваў... Ты ўжо, калі ласка, не крыўдуй, што так выйшла...* Гіль. *Прошапан спачатку жахнуўся ад такога здогаду, бо ведаў: Бог не пахваліць і смехаты ў народзе начаўпецца, што хоць ты ў сабакі вачэй пазычай!* Яновіч.

*ПАЗЫЧАЕ* ● **СЛ`ОВА (СЛ`ОЎ) НЕ ПАЗЫЧ`АЕ.** *Разм. Часцей адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знаходлівы, дасціпны ў размове. **Сін**.: бойкі на язык; востры на язык; і сячэ і паліць; не лезе па слова ў кішэню. *[Міхальчук:] Працуе яна вельмі добра. Трэба чэсна сказаць... Ну, а што на язык... Слова не пазычае...* Макаёнак. *[Шчыгол] бывае падчас узрушаны, па-прасцецку грубаваты, больш — вясёлы, знаходлівы — слоў не пазычае.* Масарэнка.

*ПАЗЫЧАЙ* ● **ХОЦЬ ТЫ Ў САБАКІ ВАЧЭЙ ПАЗЫЧАЙ** *каму.* Гл. пазыч.

*ПАЗЫЧАЦЬ* ● **НЕ ПАЗЫЧ`АЦЬ** *каму чаго. Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв.* У каго-н. хапае чаго-н. дастаткова. **Сін**.: хоць пазыч *каму чаго. [Югас] такі ж бясхлебнік, як і мы. Нічога — за душой. Адно, што смеласці яму не пазычаць.* Танк. *Людзіна не бог ведае які арганізатар, але прынцыповасці ёй не пазычаць.* Асіпенка. *Як доўга*

*чараваць над варывам — гэта ўжо справа вопыту аператара. Іваноўскаму ж яго не пазычаць.* «Звязда». *Сёлета паспрабуй знайдзі тое мелкаводдзе!.. Але ж вынаходлівасці вандроўніка не пазычаць.* Пашкоў.

**У САБ`АКІ ВАЧ`ЭЙ (В`ОЧЫ) ПАЗЫЧ`АЦЬ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Траціць сумленне, сорам, набірацца нахабнасці. *—Зайшоў бы не раз да начальства, а дзесяць разоў... —Як прасіцца, лепей хрэну з'есці. Ну не магу я ў сабакі вачэй пазычаць...* Кажадуб. **У САБАКІ ВАЧЭЙ (ВОЧЫ) ПАЗЫЧЫЦЬ.** *Зак. Буду паскудзіцца з чалавекам, а на вясну прыпрэ, дык ідзі зноў да яго прасіць, у сабакі вачэй пазычыўшы.* Крапіва. *—Мая рука зрабіла, мне і адказваць. —Дык што ж ты тады святым прыкідваешся?! — ускіпеў пан. —У сабакі вочы пазычыў?!* Караткевіч. *Цяпер Кішковіч быў узлаваны бессаромнай нахабнасцю Пінчука. —Вот і вер яму, у сабакі вочы пазычыў...* Супрунчук. *Ведае Яська, што красці — няможна, што гэта брыдка і сорамна, што крадзе толькі той, хто пазычыў у сабакі вачэй...* Гіль.

*ПАЗЫЧЫЦЬ* ● **У САБАКІ ВАЧЭЙ ПАЗЫЧЫЦЬ.** *Зак. да* **У САБАКІ ВАЧЭЙ ПАЗЫЧАЦЬ.**

*ПАЙГРАЦЬ* ● **ПАЙГР`АЦЬ НА Н`ЕРВАХ** *<чыіх, каму>. Разм. Зак. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Параздражняць, панерваваць каго-н. некаторы час. **Сін**.: вывесці з сябе *каго*; *многа* папсаваць крыві *каму*. *– Чаму ваш электрык не ў гуморы? – Гэта ён апошнія дні як ашпараны нейкі. Напэўна жонка на нервах пайграла. А так гаваркі ён у нас.* Макаловіч.

*ПАЙСЦІ* ● **ДАЛ`ЁКА ПАЙСЦ`І.** *Зак. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дамагчыся вялікіх поспехаў, дасягнуць многага ў чым-н. **Сін**.: выбівацца ў людзі; выходзіць на арбіту; выходзіць у людзі; ісці ўгору (у 1 знач.); ісці ў людзі; прабіваць сабе дарогу (у 1 знач.); пракладаць сабе дарогу (у 1 знач.); працярэбліваць сабе шлях *куды. — Ого, каб мне набыць голас Валянціна Адамавіча! —З тваімі здольнасцямі гэта няцяжка. Ты далёка пойдзеш.* Шамякін. *Вось Галіна... І ў школе, і ў інстытуце казалі пра яе: здольная, можа пайсці далёка ў навуцы, у матэматыцы ці фізіцы.* Радкевіч. *Добра, хлопчык. Чытай, вучыся. Ты, Данік, пойдзеш далёка...* Брыль. *Будзь настойлівы і ўпарты. І ты далёка пойдзеш...* Леғановіч.

**ПАЙСЦІ АГНЁМ.** *Зак. да* **ІСЦІ З АГНЁМ.**

**ПАЙСЦ`І ВА-Б`АНК.** *Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Пачаць дзейнічаць, рызыкуючы ўсім, што ёсць. *Я пайду ва-банк. Я мог схавацца, але ў палацы была*

*дзяўчына, якая зараз, пэўна, вельмі спалохалася. Я павінен быў быць там, там была мая зброя.* Караткевіч. *Галя прасіла мяне не валіць на сваё начальства, але я, як кажуць, пайшоў ва-банк.* Шамякін.

**ПАЙСЦІ ДА АБРАМА НА ПІВА.** Гл. адпраўляцца.

**ПАЙСЦІ ДАРОГАЙ** *каго, чыёй. Зак. да* **ІСЦІ ДАРОГАЙ** *каго, чыёй.*

**ПАЙСЦІ ДЫМАМ.** *Зак. да* **ІСЦІ ДЫМАМ.**

**ПАЙСЦІ З ВЕТРАМ.** *Зак. да* **ІСЦІ З ВЕТРАМ.**

**ПАЙСЦІ З ДЫМАМ.** *Зак. да* **ІСЦІ З ДЫМАМ.**

**ПАЙСЦІ МІМА РУК.** *Зак. да* **ІСЦІ МІМА РУК.**

**ПАЙСЦІ НА ВУДАЧКУ** *чыю, каго. Зак. да* **ІСЦІ НА ВУДАЧКУ** *чыю, каго.*

**ПАЙСЦІ НА ПАВАДКУ** *ў каго, каго, чыім. Зак. да* **ІСЦІ НА ПАВАДКУ** *ў каго, каго, чыім.*

**ПАЙСЦ`І НАП`ЕРАДЗЕ ПРАГР`ЭСУ**. *Зак. Разм. Іран. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Пачаць, праяўляючы якую-н. ініцыятыву, дзейнічаць неразумна, нелагічна і пад. *[Некаторыя маладыя «адраджэнцы» і «актывісты»] самі не вызначаліся ні гэтай свядомасцю, ні патрэбнай культурай. І болей рабілі шкоды, чым карысці, для прэстыжу, для аўтарытэту самой мовы. І адкуль толькі яны раптам выскачылі, пайшоўшы наперадзе прагрэсу?* Вітка. *Каля 60 «інжынераў чалавечых душ» адкрыта, у друку, выступілі з заявай у падтрымку ліквідацыі дзяржаўнай самастойнасці Беларусі. Неверагодная рэч! Наперадзе «прагрэсу» пайшлі сейбіты разумнага, добрага, вечнага…* Гілевіч.

**ПАЙСЦ`І НА СВ`ЕТ.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нарадзіцца, пачаць жыць. **Сін**.: з'явіцца на свет; прыходзіць на свет. *[Гэля:] Мы бедныя, мы жабракі, і я не хачу, каб і нашы дзеці век пражылі жабракамі. Яны будуць праклінаць нас, бо толькі па нашай волі пойдуць на свет і ўсё жыццё будуць няшчаслівыя...* Дамашэвіч. *Вы ж неяк былі ў нас, і я рада, што на маёй сялібе было ўсё вам даспадобы. Адтуль на свет пайшла, жыццё там пражыла, сваякі жывуць.* Янкоўскі.

**ПАЙСЦІ НА СВОЙ ХЛЕБ.** *Зак. да* **ІСЦІ НА СВОЙ ХЛЕБ.**

**ПАЙСЦІ НАСУСТРАЧ** *каму, чаму. Зак. да* **ІСЦІ НАСУСТРАЧ** *каму, чаму.*

**ПАЙСЦІ НА ТОЙ СВЕТ.** Гл. адпраўляцца.

**ПАЙСЦІ ПАД АДХОН.** *Зак. да* **ІСЦІ ПАД АДХОН.**

**ПАЙСЦ`І ПА КРЫВ`ОЙ СЦ`ЕЖЦЫ.** *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць жыць нядобрасумленна, дзейнічаючы хітрыкамі і падманам. **Сін.**: сысці з рэек (у 2 знач.).

*Талковы ж хлопец. Праўда, наслухаўся вымыслаў, збаяўся, дурань – пайшоў па крывой сцежцы.* Далідовіч. *Пасля таго, як выпхнулі Функціка з аспірантуры, пайшоў ён па крывой дарожцы. Разам з Міхайлам ездзіў па невялікіх гарадках, мястэчках, выдаваў сябе за таго ці іншага паэта, наладжваў творчыя вечары.* Навуменка.

**ПАЙСЦІ ПА ЛІНІІ НАЙМЕНШАГА СУПРАЦІЎЛЕННЯ.** *Зак. да* **ІСЦІ ПА ЛІНІІ НАЙМЕНШАГА СУПРАЦІЎЛЕННЯ.**

**ПАЙСЦІ ПА РОЗУМ ДА ГАЛАВЫ.** Гл. пайсці.

**ПАЙСЦІ ПА РУКАХ.** Гл. хадзіць.

**ПАЙСЦІ ПРАХАМ.** *Зак. да* **ІСЦІ ПРАХАМ.**

**ПАЙСЦ`І РУК`ОЙ.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн., які абазначае назвы жывёл, птушак. Пачаць добра весціся, гадавацца, пладзіцца. *Добра мне казаў кум Тодар: «Не купляй ад аканома скацінкі, – рукой не пойдзе, на крадзеным, баш, айсе ўскормлена».* Дунін-Марцінкевіч. *Штодзень тры разы бульбы ў ражцы даюць яму, ды шчэ й з мукою – пайшло свінчо зусім рукою: Руды наш стаў дабёр і гладак, аж чуць цягае ўжо азадак.* Крапіва.

**ПАЙСЦ`І (СХАДЗ`ІЦЬ) Ў ГАЛАВ`У (ДА ГАЛАВ`Ы) ПА Р`ОЗУМ.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыдумаць што-н., дадумацца да чаго-н. *[Куторга:] Ну, хвала богу, бацькоў удалося атуманіць! Цяпер трэба пайсці ў галаву па розум, каб дзеўку амарочыць!* Дунін-Марцінкевіч. *[Янка:] Устаткуецца ваш Мікітка з часам і пойдзе па розум да галавы. А цяпер ён жа яшчэ малады ў вас.* Купала. – *От чапяла балбатлівая. Язык як памяло, так і мяце, не стоміцца. Дай адпачыць яму, схадзі да галавы па розум, – трохі зласнавата казала пажылая кабета...* Бутэвіч.

**ПАЙСЦ`І (СЫСЦ`І) У МАГ`ІЛУ (У ЗЯМЛ`Ю).** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Памерці. **Сін**.: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; адыходзіць у лепшы свет; ажаніцца з <сырою> зямлёй; выпростваць ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць <*каму*> (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); канькі адкідаць; лажыцца ў магілу; на паповы сані збірацца; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. *Век галелі,*

*век пазычалі, не мелі свайго. Без пары бацька пайшоў у магілу...* Дамашэвіч. *О край мой мілы! Усёй душою хачу злучыцца я з табою, ў тваіх палях пазычыць сілу, ў тваёй зямлі сысці ў магілу...* Колас. *Людзі не разыходзіліся, каб нейкай хвілінай маўчання ўшанаваць таго, хто сышоў у зямлю.* Самуйлёнак. *Памёр у трыццаць гадоў сярэдні сын, раней часу сышоў у магілу муж.* Цяжкі. *Мы яе і такім зеллем, і сякім паілі, а тут... Аказаліся сухоты. Не вытрывала нашага балотнага духу, без пары ў зямлю пайшла.* Каліна.

**ПАЙСЦІ (СЫСЦІ) У ПЯСОК.** *Зак. да* **ІСЦІ (СЫХОДЗІЦЬ) У ПЯСОК.**

**ПАЙСЦ`І ЎГ`ОРУ (УГАР`У).** *Зак. Разм.* **1.** *Адабр. і неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць дабівацца больш высокага становішча ў жыцці, грамадстве. **Сін.**: пайсці ў людзі. *Яны і былі багатыя. А цяпер – дык вельмі яшчэ ўгару пайшлі. Ім пашанцавала.* Чорны. *Ну, Сцёпа, ты цяпер пайшоў угару.* Макаёнак. *Аксеня цяпер на заднім плане. Яе месца заняла Васіліна. Яна пайшла ўгору, ёй і ўвага, і пашана.* Хадкевіч. *Я ведала гэтага чалавека яшчэ з інстытута... Ён быў актывіст, прафсаюзны кіраўнік. У раёне таксама хутка пайшоў угору.* Шамякін.

**2.** Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Пачаць паспяхова развівацца, паляпшацца. Пра справу, гаспадарку і пад. *Максіму Пятровічу ўдалося за год ледзь не патроіць даходы калгаса. Людзям стала весялей жыць, і ўся гаспадарка пайшла ўгору.* Кулакоўскі. *Ну, думаю, трымайся, Сямён, справы твае быццам пайшлі ўгару, не балбачы толькі.* Быкаў.

**ПАЙСЦІ Ў ДЗЕЛА.** *Зак. да* **ІСЦІ Ў ДЗЕЛА.**

**ПАЙСЦІ Ў ЗАКЛАД.** *Зак. да* **ІСЦІ Ў ЗАКЛАД.**

**ПАЙСЦІ Ў ІНШЫ СВЕТ.** Гл. адыходзіць.

**ПАЙСЦІ Ў КАНОСУ.** *Зак. да* **ІСЦІ Ў КАНОСУ.**

**ПАЙСЦІ Ў ЛЕПШЫ СВЕТ.** *Зак. да* **ІСЦІ Ў ЛЕПШЫ СВЕТ.**

**ПАЙСЦ`І Ў Л`ЮДЗІ.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць дабівацца значнага становішча ў жыцці, грамадстве. **Сін.**: пайсці ўгору (у 1 знач.). *Юзік хлеб свой знайшоў, Пётра ў людзі пайшоў, Міхаліна на службе з каляд.* Колас. *Тое, што яго таварыш Коля Высоцкі пайшоў у людзі, абудзіла ў яго адразу ўсё гэтае нездавальненне, якое даўно ўжо драмала ў глыбіні яго істоты.* Чорны.

**ПАЙСЦ`І Ў Р`ОЖКІ** *з кім. Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць задзірацца, спрачацца, сутыкацца з кім-н., выяўляючы сваю незалежнасць, самастойнасць. *Буду ў горадзе, пагавару з інспектарам, няхай перавядзе. Балазе там і настаўнік не*

*ка двару прыйшоўся, дужа ўжо з папом у рожкі пайшоў*. Лынькоў. *– А чаго яны [паліцаі] прыходзяць да вас? – Ды ўсё да яе, да Танюшы. У рожкі з імі наважыла пайсці дзеўка. Ты б, Максімка, пагаварыў з ёй. Яна цябе паважае. Можа б, паслухала, уціхамірылася. Не за дзявочую справу ўзялася.* Машара.

**ПАЙСЦІ Ў ХОД.** *Зак. да* **ІСЦІ Ў ХОД.**

**ПАЙСЦІ ХОДЫРАМ.** Гл. захадзіць.

**У ДУБКІ ПАЙСЦІ** *з кім. Зак. да* **ІСЦІ Ў ДУБКІ** *з кім.*

*ПАЙШЛА* ● **ГАЛАВА ПАЙШЛА КРУГАМ** *у каго, чыя.* Гл. галава.

**ПАЙШЛ`А (ПАЙШЛ`О) ПІС`АЦЬ.** *У безас. ужыв. Разм.* Пачалося што-н. Пра пачатак якіх-н. дзеянняў. **Сін**.: і пайшло <і> паехала; пайшла пісаць губерня. *—Ну, што вы скажаце? Чаму гарыць зямля?.. —Не зносіць галава, — згаджаўся дрозд. —Дзівота! Дзівота... — Пайшла пісаць! — піскнула мыш.* Колас. *[Цёця Каця:] Ці праўда гэта, Аляксандр Пятровіч, што пра нашага Чарнавуса гавораць?.. [Гарлахвацкі:] Каб я што і ведаў, дык вам бы не сказаў. Пра гэта гаварыць няможна. [Цёця Каця:] Дык такі праўда. [Выходзіць.] [Гарлахвацкі:] Пайшло пісаць!* Крапіва.

**ПАЙШЛА ПІСАЦЬ ГУБЕРНЯ.** Гл. губерня.

*ПАЙШЛІ* ● **МУРАШКІ БЕГАЮЦЬ ПА ЦЕЛЕ** *ў каго, каго, чыім.* Гл. мурашкі.

**МУРАШКІ ПАЙШЛІ ПА ЦЕЛЕ** *ў каго, каго, чыім.* Гл. мурашкі.

*ПАЙШЛО* ● **І ПАЙШЛ`О <І> ПА`ЕХАЛА.** *У безас. ужыв. Неадабр.* Прыйшло ў рух, пачалося што-н. Пра інтэнсіўнае разгортванне чаго-н. **Сін**.: пайшла пісаць; пайшла пісаць губерня. *І цешчу як хто падмяніў: «Не хачу, зяцёк, не тое выслухоўваць твае парады, але і бачыць цябе ў сваім доме!» І пайшло-паехала...* Масарэнка. *І пайшло і паехала: таўкуць нагамі адзін аднаго, ажно з коўдры пыл курыць, пакуль маці не возьме бацькаву дзягу ды па коўдры той — два разы Яську, адзін раз — Калюню.* Гіль.

<u>*Калі*</u> **НА Т`ОЕ ПАЙШЛ`О.** *У безас. ужыв. Разм.* **1**. (Калі) так здарылася. *Калі на тое пайшло, пане Вашамірскі, дык няхай ужо будуць коні лепшага гатунку.* Бядуля. *Калі на тое пайшло, то вы лепш, і праўда выдавайце сябе за прымака.* Арабей.

**2**. (Калі) пра гэта пачалася гаворка. *[Пытляваны:] Калі дома яму не было на чым жыць, тады ён ішоў у прымы... [Мікола:] Што ж, калі на тое пайшло, дык я гатоў і ў прымы...* Крапіва. *Карзюка апанавала злосць: колькі нарабіў камендант клопату! Ды і сам — калі на тое пайшло — вінаваты.* Баранавых.

*ПАЙШОЎ* ● **ГНЕЎ ПАЙШОЎ У ХЛЕЎ.** Гл. гнеў.

**ПОЕЗД ПАЙШОЎ.** Гл. поезд.

**ПРАЦЭС ПАЙШОЎ.** Гл. працэс.
**ЯК У ВАДУ ПАЙШОЎ.** Гл. упаў.

*ПАКАЖА* ● **ТАЎКАЧ МУКУ ПАКАЖА!** Гл. таўкач.

*ПАКАЗАЦЦА* ● **ПАКАЗАЦЦА НА ВОЧЫ** *каму. Зак. да* **ПАКАЗВАЦЦА НА ВОЧЫ** *каму.*

*ПАКАЗАЦЬ* ● **НА ЛЮДЗЕЙ ПАГЛЯДЗЕЦЬ І СЯБЕ ПАКАЗАЦЬ.** Гл. паглядзець.

**НЕ ПАКАЗАЦЬ ВАЧЭЙ.** *Зак. да* **НЕ ПАКАЗВАЦЬ ВАЧЭЙ.**

**НЕ ПАКАЗАЦЬ ВІДУ.** *Зак. да* **НЕ ПАКАЗВАЦЬ ВІДУ.**

**НЕ ПАКАЗАЦЬ ЗНАКУ.** *Зак. да* **НЕ ПАКАЗВАЦЬ ЗНАКУ.**

**НЕ ПАКАЗАЦЬ НОСА** *куды. Зак. да* **НЕ ПАКАЗВАЦЬ НОСА** *куды.*

**НІ САМОМУ ПАГЛЯДЗЕЦЬ НІ ЛЮДЗЯМ ПАКАЗАЦЬ.** Гл. паглядзець.

**ПАКАЗ`АЦЬ АДК`УЛЬ Н`ОГІ РАСТ`УЦЬ** *каму. Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Жорстка пакараць, правучыць каго-н. так, каб не захацелася паўтарыць што-н. яшчэ раз. **Сін**.: паказаць дзе ракі зімуюць *каму*; паказаць на чым свіння хвост носіць *каму*; паказаць пачым фунт ліха *каму*; паказаць саву смаленую *каму. Эх, каб сюды сотні са дзве рудабельцаў, пушак ды снарадаў хоць трохі, яны б ворагу паказалі адкуль ногі растуць.* Грахоўскі. *—Прайдзісвет, я яму паказаў бы адкуль ногі растуць, — пагражаў салдат.* Гурскі.

**ПАКАЗАЦЬ ДАРОГУ** *каму. Зак. да* **ПАКАЗВАЦЬ ДАРОГУ** *каму.*

**ПАКАЗ`АЦЬ ДЗ`Е Р`АКІ ЗІМ`УЮЦЬ** *каму. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Жорстка пакараць, правучыць каго-н. так, каб не захацелася паўтарыць што-н. яшчэ раз. Часцей як выказванне пагрозы. **Сін**.: паказаць адкуль ногі растуць *каму*; паказаць на чым свіння хвост носіць *каму*; паказаць пачым фунт ліха *каму*; паказаць саву смаленую *каму. Вось папрашу бацьку, каб ён паказаў табе дзе ракі зімуюць.* Шамякін. «*Дай божа мне атрымаць работу, — падумаў [Сухарэўскі]. —Тады я гэтаму Лакізе пакажу дзе ракі зімуюць».* Асіпенка. *Не баішся? Пачакай, зараз я табе пакажу дзе ракі зімуюць!* Шыловіч.

**ПАКАЗАЦЬ ДУЛЮ** *каму. Зак. да* **ПАКАЗВАЦЬ ДУЛЮ** *каму.*

**ПАКАЗАЦЬ ДУЛЮ Ў КІШЭНІ.** *Зак. да* Гл. **ПАКАЗВАЦЬ ДУЛЮ Ў КІШЭНІ.**

**ПАКАЗАЦЬ ЗУБЫ** *каму. Зак. да* **ПАКАЗВАЦЬ ЗУБЫ** *каму.*

**ПАКАЗАЦЬ КАСЕ КУКІШ.** *Зак. да* **ПАКАЗВАЦЬ КАСЕ КУКІШ.**

**ПАКАЗАЦЬ КІПЦЮРЫ** *каму. Зак. да* **ПАКАЗВАЦЬ КІПЦЮРЫ** *каму.*

**ПАКАЗ`АЦЬ М`ЕСЦА** *каму. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымусіць каго-н. паводзіць сябе інакш, даючы яму

зразумець, чаго ён варты сапраўды. **Сін**.: абламаць рогі *каму*; падпілоўваць рогі *каму*; паставіць на <сваё> месца *каго*; скруціць рогі *каму. [Сузон:] І хоць яго, можа, і не зусім правільна будзе раскулачваць, але паказаць яму яго месца не зашкодзіла б.* Галавач.

**ПАКАЗАЦЬ НА ДЗВЕРЫ** *каму. Зак. да* **ПАКАЗВАЦЬ НА ДЗВЕРЫ** *каму.*

**ПАКАЗ`АЦЬ НА Ч`ЫМ СВІНН`Я ХВ`ОСТ Н`ОСІЦЬ** *каму. Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Жорстка пакараць, правучыць каго-н. **Сін**.: паказаць адкуль ногі растуць *каму*; паказаць дзе ракі зімуюць *каму*; паказаць пачым фунт ліха *каму*; паказаць саву смаленую *каму. Брыгадзірам стану. Я тады пакажу вам на чым свіння хвост носіць!* Шальманаў. *[Равяка:] Знайсці б таго нягодніка, што так зрабіў, я б яму паказаў на чым свіння хвост носіць!* Лазуркін.

**ПАКАЗАЦЬ ПАРОГ** *каму. Зак. да* **ПАКАЗВАЦЬ ПАРОГ** *каму.*

**ПАКАЗ`АЦЬ ПАЧ`ЫМ Ф`УНТ Л`ІХА** *каму. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Жорстка пакараць, правучыць каго-н., каб непанадна было. **Сін**.: паказаць адкуль ногі растуць *каму*; паказаць дзе ракі зімуюць *каму*; паказаць на чым свіння хвост носіць *каму*; паказаць саву смаленую *каму. —Знаю, знаю — да бацькі папёр пан Ельскі, графскі сынок... — гаварыў сам сабе Сцяпан. —Пакажам і сыну, і бацьку пачым фунт ліха...* Пестрак. *—Каб гэта можна было, — шапнуў на вуха Марату Сяргей, — мы б іх у адзін момант. Паказалі б гэтым прахвостам пачым фунт ліха.* Шушкевіч. *Ну, даведацца б мне толькі, хто гэта зрабіў! Я яму паказаў бы пачым фунт ліха!* Васілёнак. *—Ты глядзі, — буркнуў ён у свае вусы, — а то пакажуць табе пачым фунт ліха.* Сяркоў.

**ПАКАЗАЦЬ ПЯТКІ.** *Зак. да* **ПАКАЗВАЦЬ ПЯТКІ.**

**ПАКАЗ`АЦЬ САВ`У СМ`АЛЕНУЮ** *каму. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Жорстка пакараць, правучыць каго-н., каб непанадна было. **Сін**.: паказаць адкуль ногі растуць *каму*; паказаць дзе ракі зімуюць *каму*; паказаць на чым свіння хвост носіць *каму*; паказаць пачым фунт ліха *каму. —Вось паклічу зараз бабу Ганну на цябе, яна табе пакажа саву смаленую... —Гэта ён табе пакажа адкуль ногі растуць і дзе ракі зімуюць, — непадробна смяецца Барздыка.* Казько. «*Беднае дзіця! Такая ганьба з-за чужой дурноты, Ну, я ёй заўтра ўсыплю! —зласліва думаў пра жонку Антон Іванавіч, скідаючы з плячэй піжаму. — Я ёй пакажу саву смаленую!*» Кандрусевіч.

**ПАКАЗАЦЬ СВАЁ.** *Зак. да* **ПАКАЗВАЦЬ СВАЁ.**

**ПАКАЗАЦЬ СПІНУ** <*каму*>. *Зак. да* **ПАКАЗВАЦЬ СПІНУ** <*каму*>.

**ПАКАЗАЦЬ СЯБЕ.** *Зак. да* **ПАКАЗВАЦЬ СЯБЕ.**

**ПАКАЗ`АЦЬ ЯК БАРС`УК <СВА`ІХ> ДЗЯЦ`ЕЙ ГЛ`АДЗІЦЬ** *каму. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пакараць каго-н. (звычайна дзяцей), моцна прайшоўшыся сагнутым пальцам па галаве ад лоба да патыліцы і наадварот. *—А паказаць табе як барсук дзяцей гладзіць?.. —Не-а, — малы закрыў галаву рукамі. —Супраць поўсці гладзіць будзеш.* Караткевіч. *Бачу, тут не жартуеш. А то я ўжо хацеў табе паказаць як барсук сваіх дзяцей гладзіць.* Дайнека. *Вучыцеся мне на «выдатна», а то ўміг пакажу як барсук дзяцей гладзіць!..* Макарэвіч.

*ПАКАЗВАЦЦА* ● **ПАК`АЗВАЦЦА НА В`ОЧЫ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паяўляцца перад кім-н., у каго-н. *Цэлымі днямі Саўка дзесь прападаў і нікому не паказваўся на вочы.* Колас. *У вёсцы ён [Рукалееў] нікому не хацеў надта паказвацца на вочы, поркаўся ўсё ў Балюты на двары ля варыўні — перасыпаў.* Пташнікаў. **ПАКАЗАЦЦА НА ВОЧЫ** *каму. Зак. —Што вы, — кажа, — мама, нарабілі? Так зняславіць... Людзям на вочы сорамна паказацца.* Пальчэўскі. *Тэклю агарнуў адчай. Вярнуцца ў вёску? Як паказацца на вочы Альяшу?* Карпюк.

*ПАКАЗВАЦЬ* ● **ВЕРАБ’`ЯМ Д`УЛІ ПАК`АЗВАЦЬ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гультаяваць, займацца пустымі справамі. **Сін**.: абіваць бакі (у 2 знач.); адлежваць бакі (у 2 знач.); акалочваць(акалачваць) грушы <з вербаў>; біць байды; біць бібікі; біць лынды (у 1 знач.); біць тылылы; брынды біць; валяць дурня (у 2 знач.); ганяць сабак <*па чым*>; корчыць гультая; лічыць варон (у 2 знач.); ляжаць на баку; пляваць у столь; сабакам сена касіць (у 1 знач.); сачка давіць. *—Бацьку не бачыў? — Я не хаджу за ім. —Абодва сланяецеся, тут работы столькі, а вы вераб’ям дулі паказваеце.* І.Капыловіч. *Не спяшацца б, пастаяць бы яшчэ на ржышчы, паназіраць бы, даць бы аддыхнуць рукам і спіне. Але... —Хопіць вераб’ям дулі паказваць! — падганяе яго голас старога камбайнера.* «ЛіМ».

**НЕ ПАКАЗВАЦЬ ВІДУ.** Гл. падаваць.

**НЕ ПАК`АЗВАЦЬ ВАЧ`ЭЙ** *куды. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не прыходзіць куды-н., не паяўляцца дзе-н. **Сін**.: на парог не ступаць <да каго>; не казаць носа *куды*; не патыкаць носа *куды, да каго.* **Ант**.: высоўваць нос *куды, адкуль. Мальвіна.. была ў адлучцы.. тыдзень, а не паказвае вачэй.* Колас. *Доўга Параска вачэй на вуліцу не паказвала.* Лобан. **НЕ ПАКАЗАЦЬ ВАЧЭЙ** *куды. Зак. —Шмулечка, я хвора, я ўміраю, а ты вачэй не пакажаш, — прымільваецца Зялёнка да Шмулькі.* Цётка. *—Што гэта за чалавек,*

*чаму ён вачэй не пакажа; а пасля смяротэльнай крыўды не абярэшся, — загаманілі некаторыя мужчыны.* Чорны.

**НЕ ПАКАЗВАЦЬ ЗНАКУ.** Гл. падаваць.

**НЕ ПАКАЗВАЦЬ НОСА** *куды.* Гл. казаць.

**ПАК`АЗВАЦЬ ДАР`ОГУ** *каму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Уздзейнічаючы на каго-н., дапамагаць знайсці сваё месца ў жыцці. **Сін**.: выводзіць на дарогу *каго* (у 1 знач.); выводзіць у людзі *каго*; выводзіць у свет *каго.* **ПАКАЗАЦЬ ДАРОГУ** *каму. Зак. Не было ў нас тады яшчэ такога чалавека, як таварыш Буднік. Ты, таварыш Буднік, людзьмі нас зрабіў, дарогу нам паказаў.* Галавач.

**2**. Пачынаць што-н., рабіць пачатак як узор для каго-н. **ПАКАЗАЦЬ ДАРОГУ** *каму. Зак. [Сымонка:] Народу ў нас цяпер колькі, дзядзька Рабіна. А-ей!.. Ды ўсё новыя прыходзяць. Як грыбы пасля дажджу... [Рабіна:] Дзіва што! Пакажы толькі дарогу. Гэта ж першаму трэба адважыцца ды пачатак пакласці, а тады ўжо і астатнія пойдуць.* В.Вольскі.

**ПАКАЗВАЦЬ ДУЛЮ** *каму.* Гл. выстаўляць.

**ПАК`АЗВАЦЬ Д`УЛЮ (Ф`ІГУ, К`УКІШ) У КІШ`ЭНІ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Спадцішка пагражаць каму-н., асуджаць каго-н. *Няхай бы нас здраднікамі называлі... Гэта змылася б. Але затое што-небудзь зрабілі б. А так паказвалі дулю ў кішэні. Зашыліся ў шчыліны, як прусакі.* Навуменка. *«Цяля! — у думках вылаяў сябе Кулік. —Ты здольны толькі паказваць дулю ў кішэні».* Гурскі. *[Якаў Фаміч:] А мы з вамі, Рагнеда Іванаўна, любім іншы раз прамаўчаць. Калі нам выгадна прамаўчаць... І кукіш у кішэні паказваем...* Матукоўскі. **ПАКАЗАЦЬ ДУЛЮ (ФІГУ, КУКІШ) У КІШЭНІ.** *Зак. А што рабіць, каб не аддаць [званы], нічога не пісалі і самі ніякіх захадаў не рабілі. —Называецца, паказалі фігу ў кішэні! — сказаў я неяк аб гэтай адозве Рабэку.* Гарэцкі.

**ПАК`АЗВАЦЬ З`УБЫ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач асобы. Выяўляць непрыязнасць, варожасць да каго-н., гатоўнасць даць адпор. **Сін**.: паказваць кіпцюры *каму.* **ПАКАЗАЦЬ ЗУБЫ** *каму. Незак. [Мікод:] Мусіць, забыўся ён ужо на пяты год, дык мы яму прыпомнім, мы яму пакажам і зубы, калі на тое пойдзе.* Галавач. *Дагэтуль ён [Сяргей] лічыў Алёшку хлапчуком, ціхім, суціплым, які нават на малодшых за сябе рэдка павышаў голас. І раптам хлапчук гэты паказаў такія зубы...* Шамякін.

**ПАК`АЗВАЦЬ КАС`Е К`УКІШ.** *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Няўмела ці неасцярожна вострачы касу, абразаць, раніць руку. **ПАКАЗАЦЬ КАСЕ КУКІШ.** *Зак.Навучыўшы сына*

*трымаць касу, бацька паказаў, як трэба вастрыць яе. —Самае галоўнае — не пакажы касе кукіш! — даводзіў Змітрок сыну. —А чаго.. б я стаў касе кукіш паказваць?.. Ці я дурны? —Бывае, сынок, усё бывае. І не заўважыш, як пакажаш. Ледзь зазяваўся, сарвалася рука, чыркнуў на касе кулаком, і вось гатова...* Лазуркін.

**ПАК`АЗВАЦЬ КІПЦЮР`Ы (К`ІПЦІ)** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выяўляць непрыязнасць, варожасць да каго-н., гатоўнасць даць адпор. **Сін**.: паказваць зубы *каму. Галена ліхаманкава захадзіла па пакоі: дык вось чаму Мальвіна то такая ліслівая, што хоць да раны яе прыкладай, то кіпці паказвае.* Мальдзіс. **ПАКАЗАЦЬ КІПЦЮРЫ (КІПЦІ)** *каму. Зак. Ужо вясной 1925 года заўчасны адстаўнік паказаў кіпцюры, накінуўся на міністра вайсковых спраў Сікорскага, быццам той не рупіцца аб незалежнасці вайсковага ведамства ад сейма.* Калеснік. *Валянцін Іванавіч.. заадно намякнуў, што выведзе на чыстую ваду ўвесь хаўрус з Дубаўцом. Тут Кланька і паказала кіпці...* Б.Стральцоў.

**ПАК`АЗВАЦЬ НА ДЗВ`ЕРЫ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прапаноўваць каму-н. выйсці; выганяць каго-н. **Сін**.: паказваць парог *каму. Мы з адным хлопцам былі кандыдатамі на месца ў мастацкі інстытут. І, канечне, яго бяруць, а мне паказваюць на дзверы.* Радкевіч. **ПАКАЗАЦЬ НА ДЗВЕРЫ** *каму. Зак. —Яніс, я буду вымушаны паказаць вам на дзверы. —А я не пайду. —Пабачым.* Караткевіч. *Пасля адной такой размовы з настаўніцай маці паказала ёй на дзверы.* Карпюк.

**ПАК`АЗВАЦЬ П`АЛЬЦАМ (-І)** *на каго, на што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Адкрыта, публічна асуджаць, ганіць каго-, што-н. **Сін**.: калоць вочы *каму* (у 1 знач.); калоць у вочы *каму* (у 1 знач.); пароць вочы *каму*; пароць пальцам; пароць у вочы *каму*; тыкаць пальцам *на каго, на што. Калі я згадзіўся б аддаць Іліко, то на мяне ўсе людзі паказвалі б пальцамі.* Самуйлёнак. *—Дакуль мы будзем цярпець знявагу, дакуль на нас людзі будуць пальцамі паказваць, — падбівала яна бацьку.* Сабаленка. *Рэдакцыі кажуць, што Саюздрук вінават, а Саюздрук на выдавецкі кнігагандаль пальцам паказвае.* Крапіва.

**ПАК`АЗВАЦЬ ПАР`ОГ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прапаноўваць каму-н. выйсці; выганяць каго-н. **Сін**.: паказваць на дзверы *каму.* **ПАКАЗАЦЬ ПАРОГ** *каму. Зак. Хацела я табе паказаць парог, калі пачула ад людзей... Ды Антаніна Аркадзьеўна просіць: прытулі, кажа, паглядзі...* Шамякін. *[Былая жонка] уздыхнула, наблізілася, абняла і залепятала: «Дурненькі мой, няма ў мяне нікога, і ніхто не патрэбен. Цябе люблю! Давай*

*сыдземся!» Узарвала мяне: дзе раней была?! Ну і парог паказаў.* Калодзежны.

**ПАК`АЗВАЦЬ П`ЯТКІ.** *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ратавацца ўцёкамі, уцякаць. **Сін**.: аддаваць канцы (у 2 знач.); вастрыць лыжы *куды, адкуль* (у 2 знач.); выносіць ногі <*адкуль, ад каго*>; даваць дзёру; даваць драла; даваць драпака; даваць лататы; даваць махні-драла; даваць маху (у 2 знач.); даваць стракача *ад каго, адкуль, куды*; даваць у ногі; даваць ходу *адкуль, куды*; даваць цягу; змотваць вудачкі; зрабіць ногі (у 1 знач.); падмазваць пяткі; паказваць спіну (у 2 знач.); рваць кіпці. **ПАКАЗАЦЬ ПЯТКІ.** *Зак. Калі іх прыгрэлі добра шрапнеллю, уцалелыя немцы спрытна паказалі пяткі.* Лынькоў. *У гэтых людзей Калядка не верыў. Іх сюды прывяла цікаўнасць: калі наклюнецца нешта добрае, то можна ўступіць у арцель, а калі не, то яны адразу пакажуць пяткі.* Чарнышэвіч.

**ПАК`АЗВАЦЬ СВА`Ё.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Поўнасцю выяўляць свае якасці, магчымасці, здольнасці. **Сін**.: даваць дразда; знайсці сябе (у 2 знач.); паказваць сябе. **ПАКАЗАЦЬ СВАЁ.** *Зак. Часамі яшчэ завея спрабавала паказаць сваё.* Чорны. *[Люднікаў:] Я яго ведаю... Яшчэ пакажа сваё на выпуску трактараў.* Кучар.

**ПАК`АЗВАЦЬ СП`ІНУ** <*каму*>. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. 1. Пагардліва адварочвацца, не жадаючы размаўляць з кім-н. **Сін**.: адварочваць нос *ад каго, ад чаго* (у 1 знач.); вярнуць нос *ад каго, ад чаго* (у 1 знач.); вярнуць рыла *ад каго, ад чаго.* **ПАКАЗАЦЬ СПІНУ** <*каму*>. *Зак. Трэці раз, як прыйшлі, пан накрычаў, нашумеў — не баяўся: казакаў было повен двор — і, паказаўшы сваю панскую спіну, ён схаваўся ў пакоях.* Колас.

**2**. *Іран.* Уцякаць, паспешліва адступаць. **Сін**.: аддаваць канцы (у 2 знач.); вастрыць лыжы *куды, адкуль* (у 2 знач.); выносіць ногі <*адкуль, ад каго*>; даваць дзёру; даваць драла; даваць драпака; даваць лататы; даваць махні-драла; даваць маху (у 2 знач.); даваць стракача *ад каго, адкуль, куды*; даваць у ногі; даваць ходу *адкуль, куды*; даваць цягу; змотваць вудачкі; зрабіць ногі (у 1 знач.); падмазваць пяткі; паказваць пяткі; рваць кіпці. **ПАКАЗАЦЬ СПІНУ** <*каму*>. *Зак. У радах фашыстаў адбылося замяшанне, яны паказалі спіны. Па іх пятах, даганяючы і звальваючы, беглі партызаны...* Гурскі. *За Базылюком пабяжым услед? Не, так не гадзіцца, Ты ім толькі раз пакажы спіну, — ні аднаго сходу не дазволяць адкрыць.* Машара.

**ПАК`АЗВАЦЬ СЯБ`Е.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са

знач. асобы. Поўнасцю выяўляць свае здольнасці, якасці, магчымасці. **Сін**.: даваць дразда; знайсці сябе (у 2 знач.); паказваць сваё. **ПАКАЗ`АЦЬ СЯБ`Е.** *Зак.* *[Гарлахвацкі:] Мы з вамі яшчэ пакажам сябе, Аляксандр Пятровіч. Галовы ў нас здаровыя, рукі дужыя, сцяг навукі можам моцна трымаць.* Крапіва. *[Антаніна Цімафееўна:] Ну хай не справіўся ты там — скарацілі цябе. Але ж не махнулі рукой, не сказалі«прапашчы чалавек». А паслалі сюды, ніжэй, старшынёй райвыканкома, каб ты паказаў сябе.* Макаёнак.

*ПАКАЛЕННЕ* ● **З ПАКАЛЕННЯ Ў ПАКАЛЕННЕ.** Гл. пакалення.

*ПАКАЛЕННЯ* ● **З ПАКАЛ`ЕННЯ Ў ПАКАЛ`ЕННЕ.** *Акал. Функц. не зам.*

**1**. Па спадчыне, ад бацькоў да дзяцей (перадаваць, перадавацца, пераходзіць і пад.). **Сін**.: з роду ў род (у 1 знач.). *Бывае ж у вёсцы, што як прышпіляць чалавеку мянушку, дык яна і ідзе з пакалення ў пакаленне.* Кулакоўскі. *Вучоныя кажуць, што веды будуць пераходзіць ад бацькоў дзецям самі па сабе, як перадаюцца ў наш час з пакалення ў пакаленне інстынкты.* Карпюк.

**2**. Па традыцыі, ад старэйшых да малодшых (перадаваць, перадавацца, весціся і пад.). **Сін**.: з роду ў род (у 2 знач.). *Неяк убіўся [Чыкун] да прадаўцоў сала. Там патомныя гандляры салам — і бацька, і дзед, і прадзед — з пакалення ў пакаленне перадавалі вопыт.* Сіпакоў. *Майстэрства шаўцоў на гэтай зямлі не магло не развівацца найлепшым чынам. Яно перадавалася з пакалення ў пакаленне, і былі вядомы шматлікія дынастыі шаўцоў.* Якавенка.

*ПАКАРАЎ* ● **БОГ ПАКАРАЎ** *каго.* Гл. бог.

*ПАКАРАЦЬ* ● **ПАКАР`АЦЬ С`ЭРЦА** *каго, чыё. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Абуджаць у каго-н. любоў да сябе. **Сін**.: завязваць вочы *каму*; завязваць свет *каму* (у 2 знач.); задурыць галаву *каму* (у 1 знач.); круціць галаву *каму* (у 1 знач.); круціць мазгі *каму* (у 1 знач.); ускружыць галаву *каму* (у 1 знач.). **ПАКАРЫЦЬ СЭРЦА** *каго, чыё. Зак. [Язва:] Скажы праўду, ты паэзіяй пакарыў сэрца гэтай жанчыны? [Праменны:] Толькі паэзіяй.* Крапіва.

*ПАКАРЫЦЬ* ● **ПАКАРЫЦЬ СЭРЦА** *каго, чыё. Зак. да* **ПАКАРАЦЬ СЭРЦА** *каго, чыё.*

*ПАКАЦІ* ● **Х`ОЦЬ ШАР`ОМ ПАКАЦ`І** *дзе. Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм.* Нічога няма, зусім пуста. **Сін**.: ні вала ні каня; ні кала ні двара *ў каго*; <хоць> запалі не трэсне *чаго. У амбарах жа хоць шаром пакаці. Адна старызна — некалькі скур папрэлых ды хамуты, у якія даўно не запрагалі коней.* Чыгрынаў. *Прыйшоў я ў гэты самы «Бальшавік», а тут — ні сянінкі, ні саломінкі... У касе — хоць шаром пакаці. Ды яшчэ доўгу 500 тысяч.* Палтаран. *У кабінетах — хоць шаром пакаці. Нават у бухгалтэрыі няма. А-а, сёння ж футбол,*

*кубкавая сустрэча!* Аношкін.

*ПАКАЦІЦЦА* ● **ПАКАЦ`ІЦЦА (ПАЛЯЦ`ЕЦЬ) ПАД АДХ`ОН**. *Зак. Разм.* **1.** *Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Апусціцца ў маральных адносінах, разбэсціцца. **Сін.**: апускацца на дно; збівацца з дарогі; збівацца з панталыку (у 2 знач.); збівацца з толку (у 2 знач.); збівацца з тропу (у 2 знач.); ісці па крывой сцежцы; каціцца ўніз (у 1 знач.); сыходзіць з рэек (у 2 знач.). *Алег думаў, што пасля ўчарашняй размовы возьме сябе на прывязь, не пакоціцца далей пад адхон, азірнецца, задумаецца: як жыць?* І.Капыловіч.

**2.** Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Рэзка пагоршыцца, развіваючыся ў неспрыяльным напрамку. **Сін.**: каціцца ўніз (у 2 знач.). *Мараль наша ў многім паляцела пад адхон. Зладзейства, карупцыя, хабарніцтва, гультайства.* Панчанка. *Жыццё пакацілася пад адхон, стала куды горшым, чым усяго некалькі гадоў назад.* Капыловіч.

**ПАКАЦ`ІЦЦА СА СМ`ЕХУ.** *Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гучна, нястрымна засмяяцца. **Сін.**: бакі рваць; брацца за жываты; качацца ад смеху; надрываць жываты; <ад смеху>; паехаць ад смеху; паміраць ад смеху. *Віктар схамянуўся і таксама пакаціўся ад смеху.* Маўр. *Пырснула страла ў паветра і звалілася за некалькі крокаў ад іх. Абодва пакаціліся ад смеху.* «Маладосць».

*ПАКАЦІЦЬ* ● **ПАКАЦ`ІЦЬ Б`ОЧКУ** *на каго. Зак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць накідвацца на каго-н. з папрокамі, абвінавачваннем; пачаць прыдзірацца. *– Што ж цяпер? – разважаў Бяспалы. – Чаму непрадказальны, прыпылены Лукін пакаціў на нас бочку?..* Праўдзін. *Не пачуўшы ад мяне нічога, зноў [Корнеў] пакаціў бочкі на Кружліка, які ўсё яшчэ не вярнуўся ў брыгаду.* Масарэнка.

*ПАКАЯННЕ* ● **АДПУСЦІ ДУШУ НА ПАКАЯННЕ.** Гл. адпусці.

*ПАКІДАЕ* ● **ПАКІД`АЕ (ВЫМУШ`АЕ) ЖАД`АЦЬ Л`ЕПШАГА.** *Вык. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Недастаткова добры, нездавальняючы, не адпавядае пэўным патрабаванням. *Пакідае жадаць лепшага і работа тэхнічнага гуртка.* «Настаўн. газ.» *Пакідае жадаць лепшага стан спраў ва ўкараненні дасягненняў педагагічнай навукі і перадавога вопыту.* «Нар. асвета». *Некаторыя пераклады, гаворачы газетнай мовай, пакідаюць жадаць лепшага.* Шкраба. *Вымушае жадаць лепшага стан дарог і ў цэлым па раёне, асабліва цяпер, калі пачаліся завеі.* «Звязда».

*ПАКІДАЦЬ* ● **НЕ ПАКІД`АЦЬ К`АМЕНЯ (К`АМЕНЬ) НА К`АМЕНІ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. **1**. Знішчаць ушчэнт, разбураць да канца. **Сін.**: вырываць з

коранем *што*; зраўняць з зямлёй *што*; мяшаць з зямлёй (у 1 знач.); сціраць з твару зямлі (у 2 знач.). *Колькі разоў цябе нішчылі, Крычаў, не пакідалі на камені камень.* Дубоўка. **НЕ ПАКІНУЦЬ КАМЕНЯ (КАМЕНЬ) НА КАМЕНІ.** *Зак. Салавей глядзіць на свой цень і думае: «Каб сам быў такой велічыні, увесь маёнтак перавярнуў бы, камень на камені не пакінуў* бы...» Бядуля. *Паліцэйскія.. не маглі астудзіць палкай веры ў немінучасць прыходу новага рэвалюцыйнага ўздыму, які не пакіне пасля сябе каменя на камені з будыніны самадзяржаўна-паліцэйскага ладу.* Гартны.

**2**. *ад каго, ад чаго.* Бязлітасна раскрытыкаваць каго-, што-н. **НЕ ПАКІНУЦЬ КАМЕНЯ (КАМЕНЬ) НА КАМЕНІ.** *Зак. У слоўных баталіях з хлопцамі яна [Марыя] любіла не пакінуць ад апанента каменя на камені.* Караткевіч. *Каб [Рымар] ведаў, што за хлопец гэты Сільніцкі, ён не пакінуў бы каменя на камені ад яго дысертацыі.* Арабей. *Яркім, хвалюючым было першае слова Тарашкевіча. Яно каменя на камені не пакінула ад ёмістага абвінавачага акта.* «Полымя».

**ПАКІД`АЦЬ ЗА САБ`ОЙ** *каго, што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Апярэджваць у дасягненні чаго-н. **Сін**.: пакідаць ззаду *каго, што.* **ПАКІНУЦЬ ЗА САБОЙ** *каго, што. Зак. У справе вырабу кандалоў паны далёка пакінулі за сабой нязграбныя саматужныя кандалы былой імперыялістычнай Расіі.* Лынькоў.

**ПАКІД`АЦЬ ЗЗ`АДУ** *каго, што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Апярэджваць у дасягненні чаго-н. **Сін**.: пакідаць за сабой *каго, што.* **ПАКІНУЦЬ ЗЗАДУ** *каго, што. Зак. Што такое чалавек, людзі? Гэта мы з вамі, тыя, хто пакінуў ззаду ўсіх нашых даўніх і нядаўніх продкаў...* «Вожык».

*ПАКІНУЦЬ* • **ЖЫВ`ОГА М`ЕСЦА НЕ ПАК`ІНУЦЬ** *на кім. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі моцна збіць, знявечыць каго-н. *[Дзед Бадыль:] Схвасталі, сынок, усяго, жывога месца не пакінулі. Ляжу на жываце, а павярнуцца не магу.* Крапіва. *[Андрэй:] Вось я ўжо калі-небудзь ды змажу, ну і змажу, месца жывога на табе не пакіну.* Лынькоў. *—Во, паглядзі! — і агаліла ўсё ў сіняках плячо. —І спіна гэткая ж... Жывога месца не пакінуў, п'янчужка.* Ваданосаў.

**НЕ ПАКІНУЦЬ КАМЕНЯ НА КАМЕНІ.** *Зак. да* **НЕ ПАКІДАЦЬ КАМЕНЯ НА КАМЕНІ.**

**ПАКІНУЦЬ ЗА САБОЙ** *каго, што. Зак. да* **ПАКІДАЦЬ ЗА САБОЙ** *каго, што.*

**ПАКІНУЦЬ ЗЗАДУ** *каго, што. Зак. да* **ПАКІДАЦЬ ЗЗАДУ** *каго, што.*

*ПАКЛАДАЮЧЫ* • **НЕ ПАКЛАД`АЮЧЫ Р`УК** <u>працаваць, рабіць</u> і пад.

*Акал. Разм.* Вельмі старанна, не перастаючы. **Сін**.: душы паслухаючы; закасаўшы рукавы; у поце твару; у поце твару свайго. **Ант**.: абы дзень адбыць; абы дзень да вечара (у 1 знач.); абы з рук; з плеч ды ў печ (у 2 знач.); з пятага на дзесятае (у 2 знач.); па канец рук; праз пятае ў дзесятае (у 2 знач.); пусці павалюся (у 2 знач.); спусціўшы рукавы; сяк-так (у 2 знач.); сяк-так накасяк <абы не па-людску>; цапам-лапам; цапу-лапу; цераз пень калоду (у 1 знач.); цяп ды ляп. *[Моладзь] не пакладаючы рук майстравала грэблю, каб як найхутчэй па гэтай дарозе дайшло да іх тое новае прыгожае жыццё, аб якім апавядалі людзі-летуны.* Чарот. *Такі, відаць, шлях нам выпаў: працаваць не пакладаючы рук, і не там, дзе хочаш, а дзе трэба,* Машара.

*ПАКЛАДЗЕ* ● **ЯК БОГ НА ДУШУ ПАКЛАДЗЕ.** Гл. бог.

*ПАКЛАДЗІ* ● **ВЫНЬ ДЫ ПАКЛАДЗІ** <*каму*>. Гл. вынь.

**ХОЦЬ У ВУХА ПАКЛАДЗІ** *каго.* Гл. кладзі.

*ПАКЛАСЦІ* ● **ПАКЛАСЦІ ВОКА** *на каго. Зак. да* **КЛАСЦІ ВОКА** *на каго.*

**ПАКЛАСЦІ ГАЛАВУ** *за каго, за што, дзе. Зак. да* **КЛАСЦІ ГАЛАВУ** *за каго, за што, дзе*

**ПАКЛАСЦІ ГАЛАВУ НА КАЛОДКУ.** *Зак. да* **КЛАСЦІ ГАЛАВУ НА КАЛОДКУ.**

**ПАКЛАСЦІ ДУШУ** *ў што. Зак. да* **КЛАСЦІ ДУШУ** *ў што.*

**ПАКЛАСЦІ ЗУБЫ НА ПАЛІЦУ.** *Зак. да* **КЛАСЦІ ЗУБЫ НА ПАЛІЦУ.**

**ПАКЛАСЦІ НА <АБЕДЗВЕ> ЛАПАТКІ** *каго, што. Зак. да* **КЛАСЦІ НА <АБЕДЗВЕ> ЛАПАТКІ** *каго, што.*

**ПАКЛАСЦІ НА АЛТАР** *чаго, чый, што. Зак. да* **КЛАСЦІ НА АЛТАР** *чаго, чый, што.*

**ПАКЛАСЦІ НА БОЧКУ** *грошы. Зак. да* **КЛАСЦІ НА БОЧКУ** *грошы.*

**ПАКЛАСЦІ ПАД СУКНО** *што. Зак. да* **КЛАСЦІ ПАД СУКНО** *што.*

**ПАКЛ`АСЦІ (ПАЛАЖ`ЫЦЬ) КАН`ЕЦ** *чаму. Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Спыніць што-н., пакончыць з чым-н. **Сін**.: падводзіць рысу (у 1 знач.); ставіць кропку *на чым, над чым, у чым* (у 2 знач.). *[Глынка:] Рахунак гэты ёсць закон, сваволлю хлопскага учынку канец пакласці мусіць ён.* Колас. *І таму я пытаю ў прадстаўнікоў падспуднай рады: пакладзём мы канец нашым ваганням?..* Караткевіч. *[Русаковіч:] Трэба, нарэшце, палажыць канец халтуры.* Крапіва.

**ПАКЛ`АСЦІ (ПАЛАЖ`ЫЦЬ) НА З`УБ** *няма (не было) чаго. Зак. У безас. ужыв. Разм.* Паесці, з’есці чаго-н. *На чацвёрты дзень яна [Кацярына] зноў выйшла ў горад, бо ў хаце ўжо не было чаго пакласці на зуб.* Ваданосаў. *[Янка:] Што ім гэтыя твае дзесяць злотых? Пяць*

*дзён паабедаць! А ім цэлы месяц няма чаго на зуб пакласці.* Ялоўчык. *—Як [гэ]та ты жывеш, Ганна, што ў цябе і на зуб няма чаго палажыць? — прытворна здзівіўся Раман.* Чыгрынаў.

**ПАКЛ\`АСЦІ (ПАЛАЖ\`ЫЦЬ) ПАЧ\`АТАК** *чаму. Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. З'явіцца крыніцай, зыходным пунктам чаго-н., распачаць што-н. *Якраз у гэтыя гады ў жыцці Коласа, як і ў жыцці многіх мільёнаў людзей Расіі, адбыўся найвялікшы пераварот, што паклаў пачатак новаму шляху, новаму жыццю.* Мележ. *Іосіф.. арэнду толькі ўводзіць: частку пятую ўраджаю, каб плацілі і яны, і іх праўнукаў сыны дабрачынцу Фараону. Так пачатак ён прыгону у Егіпце палажыў.* Крапіва.

**ПАКЛАСЦІ <СВАЮ> ПЯЧАЦЬ** *на каго, на што. Зак. да* **КЛАСЦІ <СВАЮ> ПЯЧАЦЬ** *на каго, на што.*

**ПАКЛАСЦІ Ў СВАЮ КІШЭНЬ** *што. Зак. да* **КЛАСЦІ Ў СВАЮ КІШЭНЬ** *што.*

*ПАКЛАЎШЫ* ● **ПАКЛ\`АЎШЫ (ПАЛАЖ\`ЫЎШЫ) РУК\`У НА С\`ЭРЦА** <u>*гаварыць, казаць (сказаць)*</u> і пад. *Акал. Функц. не зам.* З усёй шчырасцю, праўдзіва. **Сін**.: як на духу; як на споведзі; як перад богам. *Ці шчаслівая яна, гэта мая доля, ці нешчаслівая, я і сам паклаўшы руку на сэрца кажу: не ведаю!..* Дубоўка. *[Ганcallя:] Скажыце паклаўшы руку на сэрца: вы любіце Дануту Агееўну?* Э.Валасевіч. *[Чарнавус:] Дзесяць разоў перадумаў я ўсё сваё жыццё і магу сказаць палажыўшы руку на сэрца: ні у чым не вінаваты.* Крапіва.

*ПАКЛОНЫ* ● **АДБІВАЦЬ ПАКЛОНЫ.** Гл. адбіваць.

**БІЦЬ ПАКЛОНЫ** *каму.* Гл. біць.

*ПАКОРНЫ* ● **ВАШ ПАКОРНЫ СЛУГА.** Гл. слуга.

*ПАКРУЦІЦЬ* ● **ПАКРУЦ\`ІЦЬ БАР\`АНКУ.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Папрацаваць некаторы час за рулём машыны. *Браце Вінцук, ну хоць дзянёчак яшчэ пакруці баранку «Беларуса», га? Бо хлопцы з пахмелля, насвяткаваліся на дажынках, што і яшчэ не могуць ачомацца…* Бароўскі.

**ПАКРУЦІЦЬ МАЗГАМІ.** *Зак. да* **КРУЦІЦЬ МАЗГАМІ.**

*ПАКРЫВІЦЬ* ● **ПАКРЫВІЦЬ ДУШОЙ** *<перад кім, перад чым, для каго>. Зак. да* **КРЫВІЦЬ ДУШОЙ** *<перад кім, перад чым, для каго>.*

*ПАКРЫЎДЖАНЫ* ● **Б\`ОГАМ ПАКР\`ЫЎДЖАНЫ (-АЯ, -АЕ, -ЫЯ).** *Вык. і азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Няўдачлівы, нешчаслівы; абмежаваны, невялікага розуму. **Сін**.: як пыльным мяшком ударалы. *Не чапайце яго, хлопцы. Проста ён богам пакрыўджаны. Няшчасная балаболка...* Навуменка. *Другія жонкі вунь як апранаюцца, а я нібы пакрыўджаная богам...* Паслядовіч. *Вот род, дык род! Як зубры ўсе!*

*Алесь слабейшы, праўда, удаўся, дык разумны затое. Ніхто богам не пакрыўджаны...* Далідовіч.

*ПАКРЫЎДЗІЎ* ● **БОГ НЕ ПАКРЫЎДЗІЎ** *каго чым.* Гл. бог.

**БОГ ПАКРЫЎДЗІЎ** *каго.* Гл. бог.

*ПАКРЫЎДЗІЦЬ* ● **М`УХІ (-У) НЕ ПАКР`ЫЎДЗІЦЬ (НЕ ПАКР`ЫЎДЗІЎ).** *Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі ціхі, лагодны, пакорлівы. **Сін**.: вады не замуціць; цішэй вады <і> ніжэй травы (у 1 знач.). *—Кастусь добры... — нібы адгадвае нашы думкі дзед. —Мухі не пакрыўдзіць, кавалкам хлеба не папракне, у рот не загляне.* Каліна. *У кожнай хаце пра яго [Васіля] казалі: «Мухі не пакрыўдзіць», любілі і шкадавалі.* М.Капыловіч. *Дзядзька не пакрыўдзіў і мухі, але тут разабрала і яго.* Карпюк.

*ПАКРЫШКІ* ● **НІ ДНА НІ ПАКРЫШКІ** *каму, чаму.* Гл. дна.

*ПАКУПАЦЦА* ● **ПАКУПАЦЦА Ў КРЫВІ** *<чыёй>. Зак. да* **КУПАЦЦА Ў КРЫВІ** *<чыёй>.*

*ПАКУСАЦЬ* ● **ПАКУСАЦЬ <САБЕ> ЛОКЦІ**. *Зак. да* **КУСАЦЬ <САБЕ> ЛОКЦІ**.

**ПАКУСАЦЬ СЯБЕ ЗА ЛОКАЦЬ.** *Зак. да* **КУСАЦЬ СЯБЕ ЗА ЛОКАЦЬ.**

*ПАКУТАХ* ● **БЛУКАННЕ ПА ПАКУТАХ.** Гл. блуканне.

**БЛУКАЦЬ ПА ПАКУТАХ.** Гл. блукаць.

*ПАКУТЫ* ● **ТАНТАЛАВЫ ПАКУТЫ.** Гл. мукі.

*ПАЛА* ● **НІ СЕЛА НІ ПАЛА.** Гл. села.

*ПАЛАВІНА* ● **ДАРАГ`АЯ ПАЛАВ`ІНА.** *Часцей у адз. Дзейн. і дап. Разм.* Жонка ці муж. **Сін**.: начная зязюля. *Даша зрабіла элегантны рэверанс Сasноўскаму і ўзяла Максіма пад руку. —Леанід Мінавіч, дазвольце на хвілінку забраць сваю дарагую палавіну.* Шамякін. *Капай чарвей, пасля з начоўкай збірайся ў Стоўбцы, пад Лагойск, ды прыхавай на паўлітроўку ад палавіны дарагой.* Лужанін.

*ПАЛАВІНКУ* ● **З СЯРЭДЗІНКІ НА ПАЛАВІНКУ.** Гл сярэдзінкі.

**СЯРЭДЗІНКА НА ПАЛАВІНКУ.** Гл. сярэдзінка.

*ПАЛАЖЫЎШЫ* ● **ПАЛАЖЫЎШЫ РУКУ НА СЭРЦА.** Гл. паклаўшы.

*ПАЛАЖЫЦЬ* ● **ПАЛАЖЫЦЬ ГАЛАВУ** *за каго, за што, дзе. Зак. да* **КЛАСЦІ ГАЛАВУ** *за каго, за што, дзе.*

**ПАЛАЖЫЦЬ ГАЛАВУ НА КАЛОДКУ.** *Зак. да* **КЛАСЦІ ГАЛАВУ НА КАЛОДКУ.**

**ПАЛАЖЫЦЬ ДУШУ** *ў што. Зак. да* **КЛАСЦІ ДУШУ** *ў што.*

**ПАЛАЖЫЦЬ ЗУБЫ НА ПАЛІЦУ.** *Зак. да* **КЛАСЦІ ЗУБЫ НА ПАЛІЦУ.**

**ПАЛАЖЫЦЬ КАНЕЦ** *чаму.* Гл. пакласці.

**ПАЛАЖЫЦЬ НА БОЧКУ** *грошы. Зак. да* **КЛАСЦІ НА БОЧКУ**

*грошы.*

**ПАЛАЖЫЦЬ НА ЗУБ** *няма чаго.* Гл. пакласці.

**ПАЛАЖЫЦЬ ПАД СУКНО** *што. Зак. да* **КЛАСЦІ ПАД СУКНО** *што.*

**ПАЛАЖЫЦЬ ПАЧАТАК** *чаму.* Гл. пакласці.

**ПАЛАЖЫЦЬ У СВАЮ КІШЭНЬ** *што. Зак. да* **КЛАСЦІ У СВАЮ КІШЭНЬ** *што.*

*ПАЛАМАНЫ* ● **ЛЁД ПАЛАМАНЫ.** Гл. лёд.

*ПАЛАМАЦЬ* ● **МОЖНА ЯЗЫК ПАЛАМАЦЬ**. Гл. можна.

**ПАЛАМ`АЦЬ ГАЛАВ`У** *над чым. Зак. Мнагакр. да* ламаць галаву *над чым. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна прызадумацца, стараючыся зразумець, разгадаць штосьці, знайсці выйсце з пэўнага становішча. *Прыходзілася прымаць надзвычайныя меры. І тут трэба было Раману паламаць галаву: яго Іванька – таксама дэзерцір.* Колас. *Не сказала... А чаму не сказала? От то-та і яно... Ёсць над чым паламаць галаву. Або паставіла на мне крыж – раз і назаўсёды. Або... Або...* Міcько.

**ПАЛАМАЦЬ ЗУБЫ** *на чым, дзе.* Гл. абламаць.

**ПАЛАМ`АЦЬ Ш`АПКУ** *перад кім. Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Неаднаразова і звычайна працяглы час уніжацца, ліслівіць перад кім-н., паддобрывацца пад каго-н. *«Паламаў шапку» дзядзька нямала, каб атрымаць гэты дазвол.* Шамякін.

*ПАЛАСА* ● **НЕ ПАЛАС`А.** *У безас. ужыв. Разм.* **1**. Рызыкоўна, небяспечна для каго-н. *Бачыць герой — не паласа, куды і жвавасць падзелася.* Лынькоў. *Ну тады ўжо бачым, што не паласа — бокам, бокам ды і драпанулі.* Зарэцкі. *Пераехалі мы, значыць, Сож, глядзім, а немец ужо ля ракі. Бачым, не паласа. Тады мы з Рахімам... выскачылі кумільгом з машыны ды ў кусты.* Чыгрынаў.

**2**. *каму.* Не выходзіць, не атрымліваецца. *[Аўтух:] Значыць не паласа табе, Аўтух! Турыце, турыце, дзетухны, бацьку жывога ў яму, турыце!* Гарэцкі. *Цяпер ім чакаць — не паласа.* Сяркоў. *Ды і мне таксама, як той казаў, не паласа. Галоўны канструктар, дзякуй яму, работу падкінуў... Так што — да пабачэння.* Капусцін.

*ПАЛАСАТЫ* ● **ГАД ПАЛАСАТЫ**. Гл. гад.

**ЧОРТ ПАЛАСАТЫ.** Гл. чорт.

*ПАЛАСКАЦЬ* ● **ПАЛАСКАЦЬ КОСЦІ** *чые, каго.* Гл. апалосквць.

*ПАЛАТНО* ● <u>*Белы, бледны, збялець, пабялець*</u> і пад. **ЯК ПАЛАТН`О.** *Акал. Разм.* Вельмі. *Галена стаяла белая як палатно.* Чорны. *У хату ўбегла Карачуніха, а за ёй Людміла. Валасы ў Карачуніхі былі растрапаны. Людміла была белая як палатно.* Кудравец. *Бледны як*

*палатно, ён увесь дрыжаў, не валодаючы сабою, калі пачуў раптам знаёмы голас.* Галавач. *Косцік збялеў як палатно.* Баранавых. *Хлопцу раптам цёмна стала, пабялеў як палатно.* Колас.

*ПАЛАХЛІВАГА* ● **НЕ З ПАЛАХЛІВАГА ДЗЕСЯТКА** Гл. дзесятка.

**НЕ ПАЛАХЛІВАГА ДЗЕСЯТКА.** Гл. дзесятка.

*ПАЛАЦАЎ* ● **БУДОЎЛЯ ПАВЕТРАНЫХ ПАЛАЦАЎ.** Гл. будоўля.

*ПАЛАЦЫ* ● **БУДАВАЦЬ ПАВЕТРАНЫЯ ПАЛАЦЫ.** Гл. будаваць.

*ПАЛАЧКІ* ● **НУЛЬ БЕЗ ПАЛАЧКІ** *для каго, без каго, перад кім.* Гл. нуль.

*ПАЛАЧЦЫ* ● **НЕ ЖУК НА ПАЛАЧЦЫ**. Гл. жук.

*ПАЛЕЗЕ* ● **НЕ ПАЛЕЗЕ Ў ГАЛАВУ** *каму. Зак. да* **НЕ ЛЕЗЕ Ў ГАЛАВУ** *каму.*

*ПАЛЕЗЦІ* ● **ПАЛ`ЕЗЦІ НА РАЖ`ОН.** *Зак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць рабіць што-н. рызыкоўнае, асуджанае на няўдачу; пачаць дзейнічаць, не думаючы пра вынікі. *[Караневіч:] Што ж, няхай будзе, што будзе... А хлопца заела... Цяпер ён на ражон палезе...* Крапіва. *Канешне, ён, Хоня, незнарок гэта, але ж можна было і пацярпець трохі, паддобрыцца для сваёй і Хадосцінай карысці. Дык не ж, сам палез на ражон!* Мележ. *Камандзір і камісар ухвалілі дзеянне Дварэцкага, яго развагу і кемлівасць, што не палез на ражон, безразважна рызыкуючы сабой і таварышамі.* Машара.

**ПАЛ`ЕЗЦІ НА СЦЯН`У.** *Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць крайне ўзрушацца, раздражняцца, злавацца. *Дасталося мне, але ж і з яго, праклятага, хапіла. Ледзь на сцяну не палез ад злосці, як растлумачыў перакладчык сэнс збітых рог.* Пальчэўскі. *Такія старыя нават не крыўдуюць, калі іх называюць кансерватарамі... Але скажы такому, што ён супраць НТР, супраць кібернетыкі, электронікі, – на сцяну палезе.* Шамякін.

**ПАЛ`ЕЗЦІ Ў БУТ`ЭЛЬКУ.** *Зак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць раздражняцца, злавацца на каго-н. звычайна беспадстаўна. *[Шугаеў:] Ты таксама нечага варт. У бутэльку палез. Пойдзеш у адстаўку, а я з кім буду?* Крапіва. *Багуновіч чакаў, што стары абразіцца. Любы прапаршчык за падобны намёк палез бы ў бутэльку.* Шамякін. *Малайчына, а я думаў, што ты з крыўды ў бутэльку палез.* Сабаленка. *Валодзька ў спрэчку не палез. Ён, Іван, таксама не палез у бутэльку, хоць Валодзька і папракнуў яго.* Гіль.

**ПАЛ`ЕЗЦІ Ў ГАЛАВ`У** *каму. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Пачаць неадчэпна і міжвольна ўзнікаць у свядомасці. *Было адчуванне стомленасці і яшчэ, здаецца, страты. Чаго? Палезлі ў галаву словы Сасноўскага пра сяброўства.* Шамякін. *Быліч і сам не ведаў, з чаго б гэта, з якой нагоды думкі пра ўзрост і*

*час палезлі ў галаву.* Блакіт. *На наступны дзень маё захапленне ўласным поспехам прыгасла, і ў галаву палезла зусім іншае.* Рублеўская. *Аляксей Паўлавіч нават прыпыніўся, зірнуў у акно і як бы спытаў сябе: з чаго б з якога палезлі ў галаву чорныя думкі?* І.Капыловіч.

*ПАЛЕЦ* ● **Б`ОЖЫ П`АЛЕЦ.** *Устар. Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм. Іран.* Гумавая дубінка. *Чужаніца-настаўнік прыехаў сюды з далёкага, невядомага краю, разам з паліцыяй, пад аховай яе вінтовак і «божых пальцаў».* Брыль. *—Як відаць, ты, чалавеча, божага пальца яшчэ не паспытаў, — уздыхнуў Янук. —Адлупцуюць гумай, дык ад роднага бацькі адрачэшся.* Аношкін.

**НА М`ЕЗЕНЫ П`АЛЕЦ.** *Акал. Разм. Ужыв. у адмоўн. ск.* Нікольні, зусім (не даць, не верыць і пад.). **Сін**.: на волас (у 2 знач.); на <ломаны> грош; на макулінку (у 2 знач.); на панюх табакі (у 2 знач.); на сіні пазногаць (у 2 знач.); на шэлег (у 2 знач.); ні божа мой; ні грама; ні каліва; ні кроплі; ні на <адзін> шэлег (у 1 знач.); ні на волас; ні на грам (у 1 знач.); ні на гран; ні на грош; ні на ёту; ні на каліва; ні на кроплю; ні на макава зерне; ні на макулінку. *Трэба зрабіць так, каб і на мезены палец не даць падумаць ёй, што ён [Лабановіч] шукае спаткання або зацікавіўся ёю.* Колас. *У бога, у чорта, у дамавых і ваўкалакаў мы з Санькам не верым на мезены палец.* Сяркоў.

**ПАЛЕЦ АБ ПАЛЕЦ НЕ ЎДАРЫЦЬ.** Гл. ударыць.

**ПАЛЕЦ У РОТ НЕ КЛАДЗІ** *каму.* Гл. кладзі.

*Адзін (адна, адно)* **ЯК П`АЛЕЦ.** *Акал. Разм.* **1**. Зусім (адзін), без сям'і. **Сін**.: як вока ў лобе; як перст (у 1 знач.); як ёсць *адзін. Не губ[і]це, — сірата я круглая: ані бацькі, ані маткі, ані жонкі — адзін як палец на свеце.* Цётка. *А што мне збірацца? Пры мне ўсё маё. Я застаўся адзін як палец.* Машара. *Пасля вайны Адоля жыла адна як палец.* Гігевіч.

**2**. У поўнай адзіноце. **Сін**.: як перст (у 2 знач.). *[Андрэй] быў клікнуў Вольку, дачку; тады ўспомніў, што дачкі ў хаце няма: баялася дома спаць, і яе павяла да сябе Балюта. У хаце ён цяпер адзін як палец.* Пташнікаў. *Кувель жыў у кузні, жыў адзін як палец.* Праскураў.

*ПАЛЁТАЎ* ● **РАЗБОР ПАЛЁТАЎ.** Гл. разбор.

*ПАЛЁТУ* ● **З ВЫШЫНІ ПТУШЫНАГА ПАЛЁТУ.** Гл. вышыні.

**ПТУШКА ВЫСОКАГА ПАЛЁТУ.** Гл. птушка.

**ПТУШКА НЕВЫСОКАГА ПАЛЁТУ.** Гл. птушка.

*ПАЛЁЎ* ● **КВЕТКІ З ЧУЖЫХ ПАЛЁЎ.** Гл. кветкі.

**ЦАРЫЦА ПАЛЁЎ.** Гл. царыца.

*ПАЛЁЦЕ* • *Відаць* **ПТУШКУ ПА ПАЛЁЦЕ.** Гл. птушку.

*ПАЛІЦУ* • **КЛАСЦІ ЗУБЫ НА ПАЛІЦУ.** Гл. класці.

**ХОЦЬ ЗУБЫ НА ПАЛІЦУ КЛАДЗІ** *калі, пры якой умове.* Гл. кладзі.

*ПАЛІЦЬ* • **І СЯЧЭ І ПАЛІЦЬ**. Гл. сячэ.

**ПАЛ`ІЦЬ СВА`Е КАРАБЛ`І.** *Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рашуча парываць з мінулым, робячы немагчымым вяртанне да яго. **Сін**.: паліць <усе> масты <за сабой>. **СПАЛІЦЬ СВАЕ КАРАБЛІ.** *Зак. Шурупіч перадаў ёй авоську і паскорыў крокі – трэба было скарыстаць выпадак ды заадно спаліць караблі і для свайго адступлення.* Карпаў.

**ПАЛ`ІЦЬ <УС`Е> МАСТ`Ы <ЗА САБ`ОЙ>.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рашуча парываць з мінулым, робячы немагчымым вяртанне да яго. **Сін**.: паліць свае караблі. *Жонка — няўмольная. Ад тэрміну для прымірэння [з мужам] адмаўляецца. Паліць масты, дык паліць...* «Звязда». **СПАЛ`ІЦЬ <УС`Е> МАСТ`Ы <ЗА САБ`ОЙ>.** *Зак. Святлана спаліла масты да дзяцінства, і таму ўсякі напамінак аб мінулым быў непатрэбен ёй.* М.Капыловіч. *[Авяр'ян:] Клаўдзя, спалім масты і пачнём новае жыццё.* Дзялендзік. *Перш за ўсё трэба спаліць усе масты, што звязвалі яго з мінулым.* Караткевіч. *Нават калі чалавек і спаліць усе масты, увойдзе ў новы пасёлак, у новыя светлыя пакоі, той збудаваны мазольнымі рукамі, ранейшы дом над быстрай рэчкай будзе ў памяці да канца жыцця.* Прокша. *Для людзей, якія ўжо спалілі за сабой масты, спозненыя разважанні хлопцаў.. цяпер былі непажаданымі.* Карпюк.

*ПАЛІЧКАХ* • **РАСКЛАДАЦЬ ПА ПАЛІЧКАХ** *што.* Гл. раскладаць.

*ПАЛІЧЫЦЬ* • **ПАЛІЧ`ЫЦЬ (ПЕРАЛІЧ`ЫЦЬ) Р`ЭБРЫ** *каму. Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна пабіць, збіць каго-н. **Сін**.: даваць волю рукам (у 1 знач.); лічыць зубы *каму, у каго*; лупіць скуру *з каго* (у 1 знач.); распускаць рукі (у 1 знач.). *Глядзі ў мяне! Палічу рэбры. Сказаў, паедзем — паедзем!* Калодзежны. *З усмешачкай [Лёнька] сказаў, што гразіліся рэбры палічыць.* Гіль. *Без маёй каманды не страляць. А то я табе ўсе рэбры пералічу.* Навуменка. *Пафіласофствуеш яшчэ, дык пералічу табе рэбры!* Аношкін.

**ПРАДАЦЬ** *каго* **І ГРОШЫ ПАЛІЧЫЦЬ.** Гл. прадаць.

*ПАЛІШЫНЕЛЯ* • **САКРЭТ ПАЛІШЫНЕЛЯ.** Гл. сакрэт.

*ПАЛКА* • **П`АЛКА З ДВУМ`А КАНЦ`АМІ.** *Мн. не ўжыв. Вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Тое, што можа скончыцца добра і дрэнна. *Перамогі немцаў — палка з двума канцамі. Паглядзіце, што на чыгунцы робіцца.* Навуменка. *Бытуе думка, што меліярацыя. — гэта палка з двума канцамі. Калі раней*

*чалавек не мог прадуктыўна выкарыстаць мільёны гектараў зямлі з-за балота, дык цяпер, пасля асушэння, яму пагражае, наадварот, дэфіцыт вады...* «ЛіМ».

**ПАЛКА Ў КОЛА** Гл. палкі.

*ПАЛКАЙ* ● **НЕ КІЕМ ДЫК ПАЛКАЙ.** Гл. кіем.

**ПАЛКАЙ НЕ ЗАГОНІШ** *каго куды.* Гл. загоніш.

*ПАЛКІ* ● **ДВА КАНЦЫ АДНОЙ ПАЛКІ.** Гл. канцы.

**З-ПАД П`АЛКІ.** *Акал. Разм.* Не па сваёй волі, пад прымусам (рабіць што-н.). *З кожным днём жыць у горадзе рабілася ўсё цяжэй і цяжэй, людзі выходзілі на работу з-пад палкі, пад страхам смерці.* Гурскі. *Каб грызня не перарасла ў сварку, Юзік пакрочыў далей уздоўж канавы. Што ім тлумачыць. З-пад палкі робяць, гарачыя, злыя.* Марчук.

**П`АЛКІ Ў К`ОЛЫ (П`АЛКА Ў К`ОЛА).** *У ролі розных чл. ск. Разм.* Наўмысныя перашкоды ў якой-н. справе. *Сярод многіх абвінавачванняў было і такое — Ф.Кандрацьева ўсё робіць назло новаму старшыні. Яму і так цяжка даводзіцца, а тут замест апоры — палкі ў кола.* «Звязда». *Патрэбна іншая псіхалогія – свабодная ад уласніцкіх памкненняў, розных перажыткаў і забабонаў, якія сёй-той імкнецца камуфляваць пад так званыя традыцыі. Гэта не што іншае, як патрыярхальшчына, зварот да цемрашальства! Гэта – палка ў кола прагрэсу...* Блакіт.

**СТАВІЦЬ ПАЛКІ Ў КОЛА** *каму, чаго.* Гл. ставіць.

*ПАЛКУ* ● **НАШАГА ПАЛКУ ПРЫБЫЛО.** Гл. прыбыло.

**ПЕРАГІНАЦЬ ПАЛКУ** *<у чым>.* Гл. перагінаць.

**ЯК САБАКА ПАЛКУ.** Гл. сабака.

*ПАЛОВУ* ● **НА ПАЛ`ОВУ В`УХА** *слухаць. Акал. Разм.* Няўважліва, урыўкамі. **Сін.**: адным вухам (у 1 знач.); краем вуха (у 1 знач.). *Шчыра кажучы, аповед пра гісторыю дома, вучобу і працу ў школе я слухаў, як кажуць, на палову вуха.* Савіцкі. *Гляджу: Твардоўскі слухае на палову вуха, а потым кажа: «А скажыце, старшына, ці друкаваліся вы на Беларусі?»* А.Вольскі.

*ПАЛОВЫ* ● **АДВЕЙВАЦЬ ЗЕРНЕ АД ПАЛОВЫ**. Гл. адвейваць.

*ПАЛОЖЫЦЬ* ● **ЯК БОГ НА ДУШУ ПАЛОЖЫЦЬ.** Гл. бог.

*ПАЛОМІЦЬ* ● **<САМ> ЧОРТ НАГУ ПАЛОМІЦЬ** *<дзе, у чым>.* Гл. чорт.

*ПАЛОН* ● **БРАЦЬ У ПАЛОН** *каго. Гл.* браць.

*ПАЛОСА* ● **НЕ МАЙГ`О (ТВАЙГ`О, ЯГ`О, Я`Е) Н`ОСА ПАЛ`ОСА.** *У безас. ужыв. Праст.* Мяне (цябе і г.д.) не датычыць. **Сін.**: не майго розуму справа. *Што? Не майго носа палоса? Не, брат. Слухай людзей, калі бацька цябе на пуць не паставіць.* Пташнікаў. *Мужчыны*

*рагаталі, а Басько, які касіў разам з усімі, агрызнуўся: —Палоса не майго носа. Мне загадалі, я зрабіў.* Левановіч. *[Генка:] Цікава! От табе Іван... І маўчыць! [Валун:] Не твайго гэта носа палоса! Як кажа Іван, кожнаму сваё: каму збрую ладзіць, а каму ў хамут лезці.* «Маладосць».

*ПАЛТАВАЙ* ● **ЯК ШВЕД ПАД ПАЛТАВАЙ.** Гл. швед.

*ПАЛЫ* ● **З-ПАД ПАЛ`Ы (КРЫС`А).** *Акал. Разм.* Тайна і незаконна (прадаваць, купляць, гандляваць). *Збочыўшы на Камароўскі рынак, можна было купіць з-пад палы і «цагліну» хлеба, а то і свіную тушонку і сякога-такога «юнраўскага» шмоцця.* Калеснік. *З кім бы і дзе б ні гаварыў гэты баламут-махляр, ён усё канчае шоўкам, бо прадае яго з-пад палы.* «ЛіМ». *Галодная раніца. Хлопчык малы падпольны лісток прадае з-пад палы.* А.Александровіч. *Сёння а ці толькі рыбу кету, можна балістычную ракету з-пад крыса прадаць або купіць.* Макарэвіч.

*ПАЛЬМА.* ● **П`АЛЬМА ПЕРШЫНСТВ`А.** *Мн. не ўжыв. Часцей. дап. Функц. не зам.* Поўная перавага ў чым-н., першае месца ў дасягненні чаго-н. *Былі спрэчкі і аб тым, якой брыгадзе аддаць пальму першынства — гонар быць пачынальнікам нашага слаўнага руху.* Карпаў. *Начальнік ставіў сам рэкорды, рашаючы красворды, і пальмы першынства не думаў саступаць.* Э.Валасевіч. *—Пальмы першынства, безумоўна, заслугоўвае гэта цудоўная карціна, — безапеляцыйна сказаў адзін з членаў журы.* «ЛіМ».

*ПАЛЬЦА* ● **АБВОДЗІЦЬ ВАКОЛ ПАЛЬЦА** *каго.* Гл. абводзіць.

**ВЫСМОКТВАЦЬ З ПАЛЬЦА** *што.* Гл. высмактваць

**ПАЛЬЦА НЕ ЎВАБ'ЕШ.** Гл. уваб'еш.

**ПАЛЬЦА Ў РОТ НЕ КЛАДЗІ** *каму.* Гл. кладзі.

*ПАЛЬЦАМ* ● **<І> ПАЛЬЦАМ НЕ ВАРУХНУЦЬ.** Гл. варухнуць.

**<І> ПАЛЬЦАМ НЕ КРАНУЦЬ** *каго.* Гл. кранућь.

**КІЎНУЦЬ ПАЛЬЦАМ.** Гл. кіўнуць.

**ПАКАЗВАЦЬ ПАЛЬЦАМ** *на каго, на што.* Гл. паказваць.

**ПАЛЬЦАМ АБ ПАЛЕЦ НЕ ЎДАРЫЦЬ.** Гл. ударыць.

**ПАЛЬЦАМ НЕ ПРАТКНУЦЬ** *каго.* Гл. праткнуць.

*Каўбаса* **ПАЛЬЦАМ ПХАНАЯ.** Гл. пханая.

**ПАПАДАЦЬ ПАЛЬЦАМ У НЕБА.** Гл. пападаць.

**ТЫКАЦЬ ПАЛЬЦАМ** *на каго, на што.* Гл. тыкаць.

*ПАЛЬЦАМІ* ● **ПРАПУСКАЦЬ ПАМІЖ ПАЛЬЦАМІ** *што.* Гл. прапускаць.

*ПАЛЬЦАЎ* ● Піць **БЕЗ П`АЛЬЦАЎ.** *Акал. Разм. Іран.* З ахвотай і шмат, не адмаўляючыся (піць спіртное). *Старшыня сельсавета, як і належала на такой пасадзе, піў без пальцаў. (Звычайна, калі цяля адсаджваюць ад каровы, на першых часінах у пойла кладуць пальцы, і*

*паёнік прывыкае піць.)* Барадулін.

**ЗА ПЯЦЬ ПАЛЬЦАЎ.** Гл. пяць.

**КАМБІНАЦЫЯ З ТРОХ ПАЛЬЦАЎ.** Гл. камбінацыя.

*Ведаць, вывучыць* **ЯК СВА`Е П`ЯЦЬ П`АЛЬЦАЎ.** *Акал. Разм.* Вельмі добра, грунтоўна, да дробязей. **Сін**.: удоўж і ўпоперак (у 2 знач.); як аблупленага; як ойча наш; як табліцу множання. *Лявон любіў гаварыць аб гэтай гісторыі. Ён ведаў яе як свае пяць пальцаў і цяпер, калі ўбачыў, што я зацікаўлены, пачаў апавядаць.* Галавач. *Месца пад падлогай, кожную дошку самой падлогі Міколка ведаў як свае пяць пальцаў, бо не раз рабіў ён налёты сюды са сваімі таварышамі.* Лынькоў. *Ад Бабруйска аж да Лоньскіх лясоў ён [Ігнат Пушча] вывучыў шашу як свае пяць пальцаў.* Шчарбатаў.

*ПАЛЬЦАХ* ● **НА ПАЛЬЦАХ МОЖНА ПЕРАЛІЧЫЦЬ** *каго, што.* Гл. можна.

*ПАЛЬЦЫ* ● **ГЛЯДЗЕЦЬ ПРАЗ ПАЛЬЦЫ** *на каго, на што.* Гл. глядзець.

*ПАЛЬЧАТКІ* ● *Мяняць* **ЯК ПАЛЬЧАТКІ**. *Акал. Разм. Неадабр.* Даволі часта. **Сін.**: як цыган коней. *Кіраўнікоў гаспадарак мянялі тады як пальчаткі. І каго толькі не прысылалі ў вёску камандаваць!* Законнікаў.

*ПАЛЬЧАТКАХ* ● **У БЕЛЫХ ПАЛЬЧАТКАХ.** *Акал. Функц. не зам. Іран.* Далікатна і бяскроўна (ваяваць, біцца і пад.). *—Вы збіраецеся рабіць паўстанне ў белых пальчатках! — гнеўна ўсклікнуў ён [Малахоўскі].* Якімовіч. *Дзе гэта хоць раз было ў гісторыі, каб вайну рабілі ў белых пальчатках?* Міські.

*ПАЛЬЧАТКУ* ● **КІДАЦЬ ПАЛЬЧАТКУ** *каму, чаму.* Гл. кідаць.

*ПАЛЬЧЫКАХ* ● **ХАДЗІЦЬ НА ПАЛЬЧЫКАХ** *перад кім.* Гл. хадзіць.

*ПАЛЬЧЫКІ* ● **ПАЛЬЧЫКІ АБЛІЖАШ.** Гл. абліжаш.

*ПА-ЛЮДСКУ* ● **СЯК-ТАК НАКАСЯК <АБЫ НЕ ПА-ЛЮДСКУ>.** Гл. сяк.

*ПАЛЯВАННЕ* ● **ПАЛЯВ`АННЕ НА В`ЕДЗЬМАЎ**. *Мн. не ўжыв. Дзейн. і дап. Функц. не зам. Неадабр.* Вышукванне ўнутраных ворагаў, пераслед праціўнікаў існуючага рэжыму. *Камуністычны авангард.., хутка акрыяўшы ад пасляпутчавага спалоху, уцяміў, што «паляванне на ведзьмаў» не будзе, а прыхватызатарская эканоміка нават лепш за партнаменклатурную прывілеяванасць.* Быкаў. *Гэта пры Пятру Міронавічу фактычна ўсе школы пераведзены на мову «межнациональных сношений», арганізавана было паляванне на ведзьмаў нацыяналізму ў Акадэміі навук...* Барадулін. *Другая палова 20-х гадоў – ці не адзін з найбольш складаных перыядаў у гісторыі беларускай савецкай літаратуры. Менавіта ў гэты час пачынаецца «паляванне на ведзьмаў», шуканне ворагаў у літаратурным асяроддзі*

«Маладосць». *На самай справе яго мала што не ліхаманіла ад думкі, што трэба быць у сталіцы, дзе, безумоўна , пачнецца «паляванне на ведзьмаў».* Шамякін.

*ПАЛЯЦЕЦЬ* ● **ПАЛЯЦЕЦЬ НА КРЫЛАХ.** *Зак. да* **ЛЯЦЕЦЬ НА КРЫЛАХ.**

**ПАЛЯЦЕЦЬ ПАД АДХОН.** Гл. пакаціцца.

**ПАЛЯЦ`ЕЦЬ У ТАРТАРАР`Ы.** *Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Змяніцца карэнным чынам, разваліцца, згінуць. **Сін.:** перавярнуцца дагары нагамі; перавярнуцца ўверх дном; паставіцца дагары нагамі; паставіцца з ног на галаву. *Можа б, [паручнік] жыў так і далей, калі б не вайна, не гэтая рэвалюцыя, калі ўсё ранейшае паляцела ў тартарары.* Быкаў. *Калі размовы сакрэтныя, ён выйдзе на паветра пакурыць, навошта яму, беспартыйнаму, слухаць партыйныя сакрэты. І ўсё добра, усе задаволены… Ды во ўсё паляцела ў тартарары. Цяпер ні лазні, ні таго начальства. Ні каньяку.* «Полымя».

*ПАЛЯЧЫЦЬ* ● **ПАЛЯЧЫЦЬ ГАЛАВУ.** Гл. паправіць.

*ПАМАГАЙ* ● **ПАМАГАЙ БОГ.** Гл. бог.

*ПАМАЛОЦЬ* ● **ПАМАЛ`ОЦЬ ЯЗЫК`ОМ (ЯЗЫК`АМІ)**. *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пагаварыць упустую, папустасловіць. **Сін.**: памянціць языком; патачыць лясы *<з кім>*; патрапаць языком; пачасаць язык (у 1 знач.). *Якраз пан Пратасавіцкі і пан Кудліцкі, аматары памалоць языкамі, невядома з якой нагоды абмяркоўвалі нечыя жаночыя аздобы.* Наварыч. *Ахвотнікі памалоць языком пагаворвалі, што Аляксей Паўлавіч узбіўся на сваю пасаду незаслужана…* І.Капыловіч.

*ПАМЯНЦІЦЬ* ● **ПАМЯНЦ`ІЦЬ (ПАМЯНТ`АШЫЦЬ) ЯЗЫК`ОМ (ЯЗЫК`АМІ)**. *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пагаварыць упустую, папустасловіць. **Сін.**: памалоць языком; патачыць лясы *<з кім>*; патрапаць языком; пачасаць язык (у 1 знач.). *Не калаціся, Ганна. Нічога я не надумаў. Куды мне, інваліду японскаму! Языком памянціць – адно і магу.* Шамякін. – *Я іду і ў Просіным акне, гляджу, – Марыля ці не? Так і не разгледзела. – У іх там кожны дзень вячоркі. Няхай языкамі памянташаць.* В.Ткачоў.

*ПАМАХАЦЬ* ● **ПАМАХАЦЬ ПАСЛЯ БОЙКІ КУЛАКАМІ.** *Зак. да* **МАХАЦЬ ПАСЛЯ БОЙКІ КУЛАКАМІ.**

*ПАМЕРАЦЬ* ● **ПАМЕРАЦЬ АДНОЙ МЕРКАЙ** *каго, што. Зак. да* **МЕРАЦЬ АДНОЙ МЕРКАЙ** *каго, што.*

*ПАМЕРЦІ* ● **ПАМЕРЦІ АД СМЕХУ.** *Зак. да* **ПАМІРАЦЬ АД СМЕХУ.**

*ПАМЕШЧЫК* ● **ЧЫРВ`ОНЫ ПАМ`ЕШЧЫК**. *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм.* Старшыня калгаса як гаспадар з неабмежаванай уладай.

*Партыя і ўрад рабілі героямі чэкіста Арлоўскага.. ці якога іншага чырвонага памешчыка.* Барадулін. *«Чырвоныя памешчыкі» паўсюды рабілі, што хацелі, ператвараючы падначаленых у паслухмяных балванчыкаў.* Дзелянкоўскі. — *Бачыў я Кузьму Іванавіча... — Яго можна назваць чырвоным памешчыкам? — Як вам хочацца, так і называйце — хоць белым генералісімусам... Шашлыка для людзей жыў, гэта і сёння відаць...* Масарэнка.

*ПАМІЖ* ● **ВІСЕЦЬ ПАМІЖ НЕБАМ І ЗЯМЛЁЙ.** Гл. вісець

**ПАМІЖ ДВУХ АГНЁЎ.** Гл. агнёў.
**ПАМІЖ ЖЫЦЦЁМ І СМЕРЦЮ.** Гл. жыццём.
**ПАМІЖ ІНШЫМ.** Гл. іншым.
**ПАМІЖ МОЛАТАМ І КАВАДЛАМ.** Гл. молатам.
**ПАМІЖ СЦЫЛАЙ І ХАРЫБДАЙ.** Гл. сцылай.
**ПРАПУСКАЦЬ ПАМІЖ ПАЛЬЦАМІ** *што.* Гл. прапускаць.
**ЧЫТАЦЬ ПАМІЖ РАДКОЎ** <*што*>. Гл. чытаць.

*ПАМІНАЙ* ● **НЕ ПАМІН`АЙ (-ЦЕ) Л`ІХАМ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры адсутным дзейн. са знач. асобы. Успамінаючы, не думай дрэнна пра каго-н. *Ну, бывай здарова, сястра! Не памінай ліхам!* Каваль. *Карацей — не памінай ліхам, Марцін, старога Чэста!* Самуйлёнак. *Зайшла, Рыгор Майсеевіч, развітацца з вамі. Не спрабуйце мне тлумачыць, я ўсё разумею. Бывайце здаровы, не памінайце ліхам.* Лобан.

**ПАМІН`АЙ ЯК ЗВ`АЛІ.** *Толькі ў заг. л. Вык. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Загінуў, перастаў існаваць. **Сін**.: загрымець касцямі (у 1 знач.); злажыць <свае> косці; знайсці сабе магілу *дзе*; класці галаву *за каго, за што дзе*; легчы касцьмі (у 1 знач.); легчы трупам; ляжаць у <сырой> зямлі; навярнуць галавой; накладаць галавой; парыць зямлю; парыць косці *дзе*; парыць у зямлі косці; спаць вечным сном; спаць у сырой зямлі; яму засквaрыць. *Спрытна гэта мы тады тых гадаў: ключом па цемені, і... памінай як звалі...* Лынькоў. *Хадземце. Яшчэ раптам шалёны снарад адкуль-небудзь прыляціць — і памінай як звалі.* Парахневіч.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Знік, уцёк, дзе-н. схаваўся. **Сін**.: давай бог ногі; хвастом накрыцца (у 2 знач.). *Можна з гэтага хлеўчука зрабіць падкоп... Пракапаць падземны лаз — туды, за дарогу, у лес... А там — памінай як звалі!* Міськo. *Яму рыбалка даражэй. Выхадны ці вольная мінута — вуды зграбе і памінай як звалі.* Калодзежны. *З рук вьіслізнула рыбіна і затрапятала, заскакала па пяску. Вось-вось даскача да вады і тады памінай як звалі.* Сабаленка.

**3**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Зусім страчаны,

згублены. **Сін**.: ісці з ветрам (у 1 знач.). *Я хваць за талакно! Памінай як звалі! І ў маю кішэню яны [жулікі] заглядалі.* Дунін-Марцінкевіч. *Нехта за ноч сасонку таго, цю-цю, памінай як звалі... Шукай цяпер ветру ў полі...* І.Капыловіч.

*ПАМІНАЦЬ* ● **ПАМІН`АЦЬ (УСПАМІН`АЦЬ) Д`ОБРЫМ СЛ`ОВАМ** *каго, што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Успамінаючы, добра, з удзячнасцю адгукацца, думаць, гаварыць пра каго-, што-н. *Добрым словам памінае вялікага сына Украіна маладая, вольная Украіна.* Купала. *На мяне, безумоўна, крыўдзяцца нейкія асобныя людзі... Але большасць, пераважная большасць людзей, я ўпэўнены, будзе ўспамінаць мяне добрым словам.* Шамякін. **ПАМЯНУЦЬ (УСПОМНІЦЬ) ДОБРЫМ СЛОВАМ** *каго, што. Зак. І я тут сам за дзядзьку мушу назад старонку адгарнуць і аб вясне яго ўздыхнуць, і добрым словам яго душу яшчэ раз шчыра памянуць.* Колас. *Я ў гэты час адчуў, што дзесь далёка ўспомніў нехта добрым словам нас.* Панчанка.

*ПАМІНЕ* ● **І Ў ПАМ`ІНЕ** *няма (не было). Акал. Разм.* Зусім, поўнасцю (няма чаго, каго). **Сін**.: і звання. *Карчмы няма ўжо і ў паміне, нідзе і следу не відно.* Гілевіч. *Газы ў мястэчку даўно ўжо і ў паміне не было, і ўсе асвятляліся лучынай.* Курто. *Цяпер таго балота няма і ў паміне: навокал раскінуліся ўрадлівыя нівы саўгаса «Чырвонаслабодскі.* «Вожык».

**ЛЁГКІ НА ПАМІНЕ.** Гл. лёгкі.

*ПАМІНКАХ* ● *Сядзець* **ЯК НА ПАМ`ІНКАХ.** *Акал. Разм.* Маўкліва і сумна. **Сін**.: як апошняе ў печ усыпаўшы; як мыла з'еўшы. *Цяпер уся такая моладзь. Ты хочаш, каб яны сядзелі як на памінках. Як ты.* Шамякін. *Усім было весела, толькі Міхед сядзеў як на памінках.* Сабаленка.

**ЯК ДУРНЫ НА ПАМІНКАХ** *есці* і пад. Гл. дурны.

*ПАМІРАЙ* ● **ХОЦЬ ЛАЖЫСЯ І ПАМІРАЙ.** Гл. лажыся.

*ПАМІРАЦЬ* ● **ПАМІР`АЦЬ АД (СА) СМ`ЕХУ.** *Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гучна і нястрымна, да знямогі смяяцца. **Сін**.: бакі рваць; брацца за жываты; качацца са смеху; надрываць жываты <ад смеху>; паехаць ад смеху; пакаціцца са смеху; паміраць ад смеху. *Іліко.. чакай, пакуль чалавек, які папросту паміраў ад смеху, супакоіцца.* Самуйлёнак. **ПАМЕРЦІ АД (СА) СМЕХУ.** *Зак. Можна памерці са смеху з дурнога Сімона, які корміць і поіць Арцёма Коркія, каб толькі ён не лаяўся і не абражаў яго перад людзьмі!* Самуйлёнак. *Перапэцкаліся, як чэрці, пакачаліся шчэ ў снег – проста со смеху памерці, але ім дык плач, не смех.* Крапіва.

*ПАМРЫ* ● **Х`ОЦЬ ПАМР`Ы.** *Толькі ў гэтай форме. Акал. Разм.* Нягледзячы ні на якія старанні, намаганні; што ні рабі (не атрымліваецца што-н.). **Сін**.: хоць на кавалкі разрывайся; хоць разарвіся *каму* (у 2 знач.); хоць ты крыжам ляж; хоць <ты> лопні (у 1 знач.); хоць ты што *каму. Гэта татарка Зарына... Страх якая багатая!.. А скупая... Хоць памры — яблыка не дасць.* Асіпенка. *Тады я бегла да Сцяпана напрасткі і крычала на ўвесь лес: «Пакажы, як расце грыб!..» А сама — хоць памры — не знаходзіла.* «Полымя».

*ПАМЫІ* ● **ВЫЛІВАЦЬ ПАМЫІ** *на каго.* Гл. выліваць.

**ВЫЛІВАЦЬ ПАМЫІ НА ГАЛАВУ** *каго.* Гл. выліваць.

**ЛІЦЬ ПАМЫІ** *на каго.* Гл. ліць.

*ПАМЫЯМІ* ● **АБЛІВАЦЬ ПАМЫЯМІ** *каго, што.* Гл. абліваць.

*ПАМЯНЕШ* ● **ПАМЯН`ЕШ (ПАП`ОМНІШ, УСП`ОМНІШ) МА`Ё СЛ`ОВА.** *Зак. Толькі ў 2-й ас. адз. і мн. У знач. пэўна-асаб. ск. Разм.* Абавязкова збудзецца тое, пра што гавару. Выказванне запэўнівання, што сказанае непазбежна здзейсніцца. *Яны яшчэ папросяцца сюды. Памянеш маё слова...* Кудравец. *[Цёця Каця:] З'есць і Чарнавуса. [Нічыпар:] Глядзі, каб не ўдавіўся. [Цёця Каця:] Папомніш, маё слова. З'есць, як з'еў ужо Муравіцкага.* Крапіва. *—Будзе, дзеткі мае, — гаварыла бабка Макрына, — успомніце маё слова, голад, мор ці вайна...* Каваль.

*ПАМЯНТАШЫЦЬ* ● **ПАМЯНТАШЫЦЬ ЯЗЫКОМ.** Гл. памянціць.

*ПАМЯНУЦЬ* ● **ПАМЯНУЦЬ ДОБРЫМ СЛОВАМ** *каго, што. Зак. да* **ПАМІНАЦЬ ДОБРЫМ СЛОВАМ** *каго, што.*

*ПАМЯНЦІЦЬ* ● **ПАМЯНЦІЦЬ ЯЗЫКОМ.** *Зак. да* **МЯНЦІЦЬ ЯЗЫКОМ.**

*ПАМЯНЯЦЬ* ● **ПАМЯНЯЦЬ БЫКА НА ІНДЫКА.** *Зак. да* **МЯНЯЦЬ БЫКА НА ІНДЫКА.**

**ПАМЯНЯЦЬ ШЫЛА НА МЫЛА.** *Зак. да* **МЯНЯЦЬ ШЫЛА НА МЫЛА.**.

*ПАМЯТАЦЬ* ● **НЕ ПАМЯТАЦЬ СЯБЕ** *ад чаго.* Гл. помніць.

*ПАМЯЦІ* ● **БЕЗ П`АМЯЦІ.** *Акал. Разм.* **1**. Вельмі хутка, не зважаючы ні на што (бегчы, ляцець, уцякаць і пад.). **Сін**.: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы*; без душы *бегчы*; ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсіх парах; на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як

дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант**.: як чарапаха. *Пакуль я падаю карову, дык мой Міша ўжо на Дзвіне аж на пятым плыце. Стаўлю даёнку і бягу без памяці на раку.* Крапіва. *Калі ж бацька пачаў развітвацца з гаспадарамі, ён [Хвядос] без памяці паляцеў на двор, як галаву не зламаў.* Калюга.

**2**. Вельмі моцна, страсна (кахаць каго-н., захапляцца чым-н.). **Сін**.: без аглядкі (у 3 знач.); да вар'яцтва (у 1 знач.); па <самыя> вушы (у 2 знач.). *Проста я пераконана, што хлопец без памяці закаханы ў мяне.* Лынькоў. *[У Тапурыя] без памяці закахалася князёўна.* Самуйлёнак.

**ВЫКІДАЦЬ З ПАМЯЦІ** *каго, што.* Гл. выкідаць.

**ВЫКРЭСЛІВАЦЬ З ПАМЯЦІ** *каго, што.* Гл. выкрэсліваць.

**ВЫЛЯТАЦЬ З ПАМЯЦІ** *<у каго>.* Гл. вылятаць.

**ВЫПАДАЦЬ З ПАМЯЦІ** *<у каго>.* Гл. выпадаць.

**ДАХОДЗІЦЬ ДА ПАМЯЦІ.** Гл. даходзіць.

**НА П`АМЯЦІ** *каго, чыёй. Акал. Разм.* Пры жыцці каго-н., хто быў сведкам чаго-н. **Сін**.: за памяццю *чыёй*; за памяць *чыю*; на вачах (у 4 знач.); пры памяці *чыёй. Сяляне сцвярджалі, што тут не так даўно, на памяці многіх з іх, быў бровар, і ў гэтых ямах закопвалі бульбу.* Колас. *Ужо на памяці такіх, як я, корчмаў нідзе па вёсках не было.* Брыль. *На маёй памяці два разы мужычкі бунтаваліся. Я сам быў у гэтых бунтах адным з першых.* Бядуля.

**НЕ ВЫХОДЗІЦЬ З ПАМЯЦІ** *<чыёй, у каго>.* Гл. выходзіць.

**НЯД`ОБРАЙ П`АМЯЦІ.** *Азн. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. перад наз. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Такі, пра якога ці пра што ўспамінаюць з непрыязнасцю, нянавісцю. «*Беларусаў псуе горад...» Гэтыя словы, зняважлівыя, высакамерныя, сказаў калісьці нядобрай памяці Юзаф Пілсудскі.* Дайнека. *Ствараецца ўражанне, што ўсе героі аповесці вельмі добра знаёмыя табе, што сустракаўся з імі ў кніжках, напісаных і 50, і 90, і болей гадоў назад, якраз пры тым нядобрай памяці цары.* «ЛіМ». *Нядобрай памяці ганенні на абстракцыяністаў і фармалістаў у літаратуры і мастацтве, натуральна, не абмінулі У.Караткевіча.* «Маладосць».

**ПА П`АМЯЦІ** *чытаць, выступаць* і пад. *Акал. Функц. не зам.* Не звяртаючыся да тэксту, помнячы што-н. **Сін**.: на памяць *ведаць* і пад. *Тое, што я прачытаў па памяці табе, Міхаіл, гэта пракламацыя, якую раздалі рабочым на могілках.* Самуйлёнак. *Апоўдні сюды сабралася моладзь і дзеці. Падлеткі, што па памяці цытуюць Горкага, называюць шахматных чэмпіёнаў і іншыя прагрэсіўныя рэчы.* Брыль. *Выступаў Гарашкін заўсёды па памяці.* Пянкрат.

**ПА СВ`ЕЖАЙ П`АМЯЦІ.** *Акал. Функц. не зам.* Пакуль яшчэ добра помніцца, пакуль не забылася (занатоўваць, расказваць і пад.). *Весткі ў «Звяздзе» падаваліся па свежай памяці, ад пачатку паэмы мінула менш чым дзесятак гадоў.* Лужанін. *Самі ведаеце, як ўсё важна для гісторыі. Будучыя пакаленні не даруюць нам, калі мы па свежай памяці не занатуем хоць бы галоўнага.* Гурскі.

**ПА СТАР`ОЙ П`АМЯЦІ.** *Акал. Функц. не зам.* З пачуцця ранейшай дружбы, пад уплывам успамінаў аб мінулым (рабіць што-н.). *[Баніфацый] па старой памяці прыняў, і прабыў я ў яго ў шавецкім тэрміне яшчэ гады два з нечым.* Гарэцкі. *Няўжо Федзя не пазнаў яго? А можа, не хацеў пазнаць? А мог жа спыніцца і падкінуць па старой памяці.* Грахоўскі. *Добры дзень, дзядзька Андрэй! Во прыехаў у горад з братам і па старой памяці прывёз вам гасцінца.* Хацкевіч.

**ПЕРАБІРАЦЬ У ПАМЯЦІ** *каго, што.* Гл. перабіраць.

**ПРЫ П`АМЯЦІ** *чыёй. Акал. Разм.* Пры жыцці каго-н., хто быў сведкам чаго-н. **Сін**.: за памяццю *чыёй*; за памяць *чыю*; на вачах (у 4 знач.); на памяці *каго, чыёй. Бачыце гэтыя старыя пні? Пры маёй памяці тут быў лес...* Пестрак. *Тут жа яшчэ пры маёй памяці павярнуцца не было дзе: з аднаго боку лес, з другога — балота, з трэцяга — непраходныя хмызнякі.* Хадкевіч.

**СЫХОДЗІЦЬ З ПАМЯЦІ** *каму.* Гл. сыходзіць.

**УСПЛЫВАЦЬ У ПАМЯЦІ** *каго, чыёй.* Гл. усплываць.

*ПАМЯЦЦЮ* ● **ЗА П`АМЯЦЦЮ** *чыёй. Акал. Разм.* Пры жыцці каго-н., хто быў сведкам чаго-н. **Сін**.: за памяць *чыю*; на вачах (у 4 знач.); на памяці *каго, чыёй*; пры памяці *чыёй Гэта яшчэ за маёй памяццю было, лес тут быў вялізны, бор і балота.* Галавач. *Хай таварыш Журавінка не адбрыкваецца, не гэтак даўно было, за нашай памяццю.* Лобан.

*ПАМЯЦЬ* ● **В`ЕЧНАЯ П`АМЯЦЬ** *каму. Выкл. Функц. не зам.* Ужыв. як пажаданне заўсёды помніць нябожчыка, звычайна за яго справу, учынкі і пад. **Сін**.: зямля пухам *каму.* **Ант**.: калом зямля *каму* (у 1 знач.). *Я думаў, пераначаваўшы, доктара пазваць, а ён і не дачакаўся, бедны, у дванаццаць гадзін і богу душу аддаў. Вечная памяць яму!* Крапіва. *Вечная памяць тым, хто загінуў.* Шушкевіч.

**ДАЙ БОГ ПАМЯЦЬ.** Гл. бог.

**ЗА П`АМЯЦЬ** *чыю. Акал. Разм.* Пры жыцці каго-н., хто быў сведкам чаго-н. **Сін**.: за памяццю *чыёй,* на вачах (у 4 знач.); на памяці *каго, чыёй*; пры памяці *чыёй. Ужо за маю памяць уладаром двара перабывала пяць асоб...* Гартны. *А на гэтым самым месцы, яшчэ за нашу памяць, стаялі спарахнелыя прытулкі.* Чорны.

**НА П`АМЯЦЬ** <u>*ведаць, чытаць*</u> і пад. *Акал. Функц. не зам.* Не заглядваючы ў тэкст. **Сін**.: па памяці. *А ён жа — яшчэ ўсё румяны з марозу і сарамлівы юнак — мог на памяць прачытаць таму дзеду радкі па-народнаму сапраўднай паэзіі...* Брыль. *Я атрымаў некалі добрую вывучку ад чалавека, верш якога ў дзяцінстве вучыў на памяць.* Карпюк.

**НА П`АМЯЦЬ** <u>*даваць, дарыць*</u> і пад. *Акал. Функц. не зам.* Для таго, каб помніць, не забываць каго-, што-н. *[Кароль:] Ці не дасі хоць адну кветачку і мне на памяць...* Дунін-Марцінкевіч. *[Карпаўна] усміхнулася, нявесела, горка ўсміхнулася і адмовілася ад зброі, а ўзяла на памяць у яго заткнуты ў аколыш шапкі звычайны палявы рамонак.* Краўчанка.

**НЕ Ў П`АМЯЦЬ** *каму. Устар. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Ніяк не прыпамінаецца, не помніцца. *Зіма тая мне не ў памяць.* Астрэйка.

**УРЭЗАЦЦА Ў ПАМЯЦЬ** *каму.* **Гл.** урэзацца.

**УСПЛЫВАЦЬ НА ПАМЯЦЬ** *каму, у каго.* Гл. усплываць.

*ПАН* ● **САМ САБЕ ПАН.** Гл. сам.

*ПАНА* ● **ЗАМУЖ ЗА ПАНА ПЯСОЦКАГА** *збірацца.* Гл. замуж.

**ЗАХВАРЭЦЬ НА ПАНА.** Гл. захварэць.

<u>*Відаць, пазнаць*</u> **П`АНА ПА ХАЛ`ЯВАХ (ПА ХАЛ`ЯЎКАХ).** *Кампанент безас. вык. Разм. Часта неадабр.* (Відаць) па знешнасці, паводзінах, справах, што за чалавек. **Сін**.: *відаць* птушку па палёце. *—Відаць пана па халявах, — кідае ў адрас аўтара Канстанцін Міхайлавіч. —Чуеш, які пах з яго творыка верне?* Лужанін. *—То што, мо паказаць пашпарт? —Навошта? Відаць пана па халяўках.* Дамашэвіч. *—Так што, голубе, разам марнець будземо: я ж таксама з наваградскай стараны буду!.. —Ды ўжо ж, як кажуць, пана па халявах відно! — павесялелым голасам адказаў Алесь.* Лецка. *– Ах, якія ж яны ўсё-такі джэнтльмены! Нават падзякавалі! – О, так, так, пазнаць пана па халявах.* Купала.

**ХВАРЭЦЬ НА ПАНА.** Гл. хварэць.

*ПАНДОРЫ* ● **СКРЫНЯ ПАНДОРЫ.** Гл. скрыня.

*ПАНЕ* ● **І КВІТА <ПАНЕ> МІКІТА.** Гл квіта.

*ПАНЕСЛА* ● **НЯЛЁГКАЯ ПАНЕСЛА** *каго куды, да каго.* Гл. нялёгкая.

**ХВАРОБА ПАНЕСЛА** *каго дзе.* Гл. хвароба.

*ПАНЕСЦІ* ● **ПАН`ЕСЦІ <З САБ`ОЙ> У МАГ`ІЛУ** *што. Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Памерці, не перадаўшы, не паведаміўшы чаго-н., не паспеўшы ажыццявіць што-н. *У беларускай літаратуры, сярод іншых яе вобразаў узвышаецца трагічная постаць*

*Міхала з «Новай зямлі» Якуба Коласа. Гэты чалавек сваю мару аб зямлі панёс у магілу.* Чорны.

*ПАНЁС* ● **ЧОРТ ПАНЁС** *каго куды.* Гл. чорт.

**ЯК ЧОРТ ПАНЁС** *каго, што.* Гл. чорт.

*ПАНІ* ● **САМА САБЕ ПАНІ.** Гл. сама.

*ПАНТАЛЫКУ* ● **ЗБІВАЦЦА З ПАНТАЛЫКУ.** Гл. збівацца.

**ЗБІВАЦЬ З ПАНТАЛЫКУ** *каго.* Гл. збіваць

*ПАНУРГАЎ* ● **ПАНУРГАЎ СТАТАК.** Гл. статак.

*ПАНЧОХА* ● **С`ІНЯЯ ПАНЧ`ОХА.** *Часцей у адз. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* Непрывабная жанчына, якую больш за ўсё цікавяць дзелавыя, навуковыя заняткі. *Адзін на адзін ён [Максім] пераканаў бы любую сухастоіну, любую «сінюю панчоху». Але перашкаджала Даша.* Шамякін. *Рыта належала да таго шчаслівага ліку разумных жанчын, якіх розум не высушвае, не пазбаўляе той няўлоўнай жаночай прывабнасці (з усімі яе недарэчнасцямі), без якой жанчына як бы перастае быць жанчынай, а робіцца той нуднаватай «сіняй панчохай», якой так цураюцца мужчыны...* Васілевіч.

*ПАНЧОХУ* ● **НАБІВАЦЬ ПАНЧОХУ.** Гл. набіваць.

**ТРЭСЦІ ПАНЧОХУ.** Гл. трэсці.

*ПАНЮХ* ● **НА ПАН`ЮХ (НА Н`ЮХ) ТАБ`АКІ.** *Разм.* **1**. *У безас. ужыв.* Зусім мала. **Сін**.: **з** верабʼёў нос (у 1 знач.); з жабіны прыгаршчы *чаго*; з камароў нос (у 1 знач.); з макава зерне; кропля ў моры <*чаго*>; курам на смех (у 3 знач.); на жабін скок (у 2 знач.); на заячы скок; на капейку; на макава зерне; на пальцах можна пералічыць *каго, што*; на шэлег (у 1 знач.); не поле насеяна *каго*; раз-два і ўсё *каго, чаго*; як кату; <як> кот наплакаў *каго, чаго*; як старой бабе сесці *чаго*. *«Іх, — кажа,— жменька якая, на нюх табакі, а яны парушаюць спакойнае жыццё вунь якой масы народу».* Пальчэўскі.

**2**. *Акал. Ужыв. у адмоўн. ск.* Зусім, ніколькі (не браць, не мецъ і пад.). **Сін**.: на волас (у 2 знач.); на <ломаны> грош; на макулінку (у 2 знач.); на мезены палец; на сіні пазногаць (у 2 знач.); на шэлег (у 2 знач.); ні божа мой; ні грама; ні каліва; ні кроплі; ні на <адзін> шэлег (у 1 знач.); ні на волас; ні на грам (у 1 знач.); ні на гран; ні на грош; ні на ёту; ні на каліва; ні на кроплю; ні на макава зерне; ні на макулінку. *Ты яе [зямлі] у нас не возьмеш і на панюх табакі.* Сабаленка.

**НІ ЗА ПАН`ЮХ (ЗА Н`ЮХ) ТАБ`АКІ** *прападаць (прапасці), гінуць (загінуць)* і пад. *Акал. Разм.* Зусім дарэмна, без усякай прычыны. **Сін**.: вечным правам; за гнілую рыбу; ні за грош; ні за капейку; ні за што ні пра што; як рудая мыш. *Не вытыркайся задужа... Можам загінуць ні*

*за панюх табакі...* Лынькоў. *Пакласці лепшых людзей ні за панюх табакі — карысці мала. Так я кажу, Аляксандр?* Грахоўскі. *Так от і збаёдавалі жывёліну, а пасля збылі ні за панюх табакі, як замораную ялаўку.* Вітка. *Барзджэй! З вамі прападзеш ні за нюх табакі.* Гурскі. *Сваіх дзяцей цётка не мела. Першы мужык не вярнуўся з вайны. «Каб даў бог дзяцей, дык бы вымеркавалі пенсію, — жалкавала ўсё цётка. —А так згінуў ні за нюх табакі.* Аношкін.

*ПАНЮХАЦЬ* ● **ПАНЮХАЦЬ ЗЯМЛЮ.** *Зак. да* **НЮХАЦЬ ЗЯМЛЮ.**

**ПАН`ЮХАЦЬ К`ОРАК.** *Зак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выпіць спіртнога. **Сін**.: бачыць шклянога бога; браць у губу; вадзіць казу; глядзець у бутэльку; закідаць за гальштук; закідваць за каўнер; закладваць за каўнер; заліваць вочы <*чым*> (у 1 знач.); заліваць за каўнер; заліваць чарвяка; мокнуць у гарэлцы; наліць горла; наступіць на корак; не прасыхаць; прамачыць горла. **Ант**.: не браць у рот *што, чаго* (у 2 знач.). *Думаў ты, што я прыйду піць тут розную бурду? Не, брат, гэта нецікава. Дай ты мне панюхаць корак так хоць градусаў на сорак.* Крапіва. *—Нешта ты сёння кіслы, — заўважыў Уладзік. —Няўжо нідзе не давялося панюхаць корак?* Дамашэвіч.

**ПАНЮХАЦЬ ПОРАХУ.** *Зак. да* **НЮХАЦЬ ПОРАХ.**

*ПАНЯСУЦЬ* ● **КУДЫ ВОЧЫ ПАНЯСУЦЬ.** Гл. вочы.

**КУДЫ НОГІ ПАНЯСУЦЬ.** Гл. ногі.

*ПАПА* ● **АПОШНЯЯ Ў ПАПА ЖОНКА.** Гл. жонка.

**НА ПАП`А** <u>*ставіць (паставіць).*</u> *Акал. Разм.* Вертыкальна. *Неўзабаве прыйшлі два дзядзькі, шыракаплечыя, дужыя. Яны ставілі кожны мех на папа, браліся адной рукою за ражкі, валілі на сашчэпленыя рукі і гэтак ужо неслі ў краму, клалі на вагі, і Зусь узважваў.* Сабаленка. *—Во так, — камандаваў ён хлопцам,— на папа стаўце, ага...* Жычка. *Тры бочкі, пастаўленыя на папа, матава паблісквалі масляністымі бакамі.* Беразняк.

**ЯК П`АПА К`АРЛА** <u>*рабіць, працаваць*</u> і пад. *Акал. Разм. Часцей ужыв. пры дзеясл.-вык. незак. тр.* Напружана, высільваючыся. **Сін.**: як закляты; як <чорны> вол. *У кожнага свой лёс… Я ў свой час рабіў як папа Карла... Цяпер бачу, што многія мае равеснікі паспіваліся, а я хоць чагосьці, але дасягнуў у гэтым жыцці.* «Маладосць». *– А калі ў вас будзе яшчэ адзін адказ [уладкавацца]? – На такі выпадак мы знайшлі яшчэ больш чорную працу, дзе будзем шчыраваць як папа Карла, але назад не вернемся.* «Звязда». [*Лепешаў*, с. 91; *Даніловіч*, с. 240: як папа Карла.]

*ПАПАВАРЫЦЦЬ* ● **ПАПАВАР`ЫЦЬ ВАД`Ы** *з каго. Зак. Мнагакр. да*

варыць ваду *з каго. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паздзекавацца з каго-н. працяглы час, прыдзіраючыся да яго. *Тыдні з тры перад тваім прыездам тут жа Герасім з жонкай гасцявалі. Дык што яны вады папаварылі з маткі. Яна выжыльвалася, старалася як смачней згатаваць, а яны сядуць за стол і насы паадварочваюць.* Сабаленка.

*ПАПАДАЕ* ● **ЗУБ НА ЗУБ НЕ ПАПАДАЕ** *ў каго.* Гл. зуб.

*ПАПАДАЦЦА* ● **ПАПАДАЦЦА НА ВОЧЫ** *каму.* Гл. пападаць.

**ПАПАДАЦЦА НА КРУЧОК** *каму, чый, да каго.* Гл. пападаць.
**ПАПАДАЦЦА НА ЯЗЫК** *каму.* Гл. пападаць.
**ПАПАДАЦЦА ПАД РУКУ** *каму.* Гл. пападаць.
**ПАПАДАЦЦА Ў КІПЦЮРЫ** *каго, чые, каму.* Гл. пападаць.
**ПАПАДАЦЦА Ў ЛАПЫ** *каго, каму, да каго.* Гл. пападаць.
**ПАПАДАЦЦА Ў ПЕРАПЛЁТ.** Гл. пападаць.
**ПАПАДАЦЦА Ў РУКІ** *каго, чые, каму, да каго.* Гл. пападаць.

*ПАПАДАЦЬ* ● **ПАПАД`АЦЬ (ПАПАД`АЦЦА, ТРАПЛ`ЯЦЬ, ТРАПЛ`ЯЦЦА) НА В`ОЧЫ** *каму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Выпадкова прыцягваць чыю-н. увагу, быць заўважаным, убачаным, нечакана сустракацца з кім-н. *Васіль кожны дзень, з самага ранку, сачыў за кожнаю.. фурманкаю.., але нібы якая прымха мяшала яму: Зося не пападала на вочы.* Гартны. *[Перагуд:] Як падужэю, тады я сам паеду і даю слова больш вам на вочы не пападацца.* Крапіва. *На вочы трапляла і сама хата пад другой высокай ліпай, і хляўчук убаку, каля самага арэшніку.* Шамякін. *Усё, што трапляла на вочы, нагадвала пра Верачку, пра бяду, пякло тугою...* Мележ. *—Як ты думаеш, дзеля чаго зроблены фортачкі ў вашых вокнах? — пытае ўжо ён у першага вучня, які трапляецца яму на вочы ў класным пакоі.* Пальчэўскі. *Ні звяроў, ні птушак, якія трапляюцца яму на вочы, дзед не страляе.* Хомчанка. **ПАПАСЦІ (ПАПАСЦІСЯ, ТРАПІЦЬ, ТРАПІЦЦА) НА ВОЧЫ** *каму. Зак. У настаўніцкай першым яму на вочы трапіўся дырэктар.* М.Капыловіч. *Васіль не раз гаварыў, што лепш хацеў бы сустрэцца з гадам або воўкам, як папасці на вочы ляснічаму.* Колас. *Каб гэты прыход раней заўважыла Наталля, яна, можа б, і пастаралася не папасціся на вочы.* Чорны.

**ПАПАД`АЦЬ (ПАПАД`АЦЦА, ТРАПЛ`ЯЦЬ, ТРАПЛ`ЯЦЦА) НА КРУЧОК (НА В`УДАЧКУ, НА В`УДУ)** *каму, чый, да каго. Незак.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даваць сябе падмануць, ашукаць. **Сін**.: ісці на вудачку *чыю, каго,* клюнуць на вудачку (у 1 знач.); паддавацца на вудачку *каго, чыю, каму. У мяне пасля балелі мышцы*

*жывата — ад натугі, каб не зарагатаць ад таго, як траплялі на вудачку паважаныя сталыя людзі* Шамякін. *Рэлігійныя легенды і цячэнні твораціца не як рэзультат таго, што знаходзяцца наіўныя і трапляюцца на вуду...* Карпюк. **ПАПАСЦІ (ПАПАСЦІСЯ, ТРАПІЦЬ, ТРАПІЦЦА) НА КРУЧОК (НА ВУДАЧКУ, НА ВУДУ)** *каму, чый, да каго. Зак. Разм. —А-а-а, чуў, дачка дробнага памешчыка, бойкая дзяўчынка... —Глядзіце, не пападзіцеся на кручок... Яна ўчэпістая... верхаводзіць у гімназіі...* Гурскі. *Абодвум было няёмка ад думкі, што іх «завялі» злаўмысна і яны папаліся на кручок.* Раманаў. *А што раскажаш, калі так ганебна трапіў на вудачку гэтаму хулігану Сцёпу, не разгадаў яго хітрасці і вось... застаўся ў дурнях.* Курто. *Мама, здаецца, трапіла на яго вудачку, шэпча заспакоена: —Добра з табою, Пеця! Ты заўсёды ўмееш пераканаць.* М.Капыловіч. *К таму часу яна [Нюра] зноў стала вольная і сумавала адна. Вось тут ён [Панібрат] і трапіў да яе на вудачку.* Дамашэвіч.

**ПАПАД`АЦЬ (ПАПАД`АЦЦА, ТРАПЛ`ЯЦЬ, ТРАПЛ`ЯЦЦА) НА ЯЗ`ЫК** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Станавіцца прадметам размовы, абмеркавання. *Васіль і Ніна, адстаючы крыху ад усіх, спачатку размаўлялі пра ўсе, што траплялася на язык, потым хлопец спытаў пра тое, што яму цэлы дзень не давала спакою...* Гаўрылкін. **ПАПАСЦІ (ПАПАСЦІСЯ, ТРАПІЦЬ, ТРАПІЦЦА) НА ЯЗЫК** *каму. Зак. Ну каму ж гэта хочацца папасціся на язык і за што? За неахайнасць?* Колас. *Мароз быў у цудоўным настроі. Пападзіся цяпер яму на язык які Шэмет — жартачкамі душу выняў бы.* Лобан. *Ішла б ужо. А то трапіш на язык Макарысе.* Б.Стральцоў. *Каб не трапіць мужчынам на язык, [Вася] павярнуўся і прымарудзіў крок.* Лецка.

**ПАПАД`АЦЬ (ПАПАД`АЦЦА, ТРАПЛ`ЯЦЬ, ТРАПЛ`ЯЦЦА) ПАД РУК`У (-І)** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Выпадкова аказвацца побач з кім-н., на чыім-н. шляху. **Сін**.: падвярнуцца пад руку *каму. Спаць бы час Мысліцкаму, ды сон не бярэ. Пад руку ў скрыні пападаецца яму пераплеценая кніжка са скураною спінкаю.* Мурашка. *Для работы на кухні, на будаўніцтве, паліваць дрэўцы і вуліцы бралі таго, хто пападаўся пад руку...* Брыль. *Андрэй выцягнуў з-пад ложка чамадан і пачаў кідаць у яго ўсё, што трапляла пад рукі...* Кудравец. *[Купала] чытае Пушкіна, Някрасава, Кальцова, захапляецца вершамі Марыі Канапніцкай, Міцкевіча і іншых польскіх паэтаў. Чытае ўсё, што трапляецца пад руку.* Колас. **ПАПАСЦІ (ПАПАСЦІСЯ, ТРАПІЦЬ, ТРАПІЦЦА) ПАД РУКУ (-І)** *каму. Зак. Ведалі ўсе, што крадзе гэты загадчык усё са склада, бярэ цэлымі бочкамі — аліфу, фарбу, скрынкі цвікоў, шкло,*

*жалеза, — што ні трапіць пад руку.* Лынькоў. *Яны любілі, падвыпіўшы, цягацца па рынку і красці там у перакупак і ў мужыкоў усё, што трапіцца пад руку.* Гарэцкі. *Добра, каб блізка быў які лес ці хоць бы хмызняк або раўчак. Або каб дзе ў двары папаўся пад рукі конь.* Быкаў. *Ці пападзе пад руку які грузавічок ці фурманка, каб з раёна да дамоўкі дабрацца.* Ракітны.

**ПАПАД`АЦЬ (ПАПАД`АЦЦА, ТРАПЛ`ЯЦЬ, ТРАПЛ`ЯЦЦА) У КІПЦЮР`Ы (У К`ІПЦІ)** *каго, чые, каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць злоўленым, схопленым кім-н. **Сін**.: пападаць у лапы *каго, каму, да каго*; пападаць у рукі *каго, чые, каму, да каго* (у 2 знач.). **ПАПАСЦІ (ПАПАСЦІСЯ, ТРАПІЦЬ, ТРАПІЦЦА) У КІПЦЮРЫ (У КІПЦІ)** *каго, чые, каму. Зак. Прывялі мяне туды і зачынілі мяне там, пакуль што з іншымі такімі ж разявакамі, што папаліся ім у кіпці на вуліцы, як і я.* Гарэцкі. *Ты стараешся, каб людзі, што трапілі з табой у кіпцюры ворага, не страцілі чалавечай годнасці.* Хадкевіч.

**ПАПАД`АЦЬ (ПАПАД`АЦЦА, ТРАПЛ`ЯЦЬ, ТРАПЛ`ЯЦЦА) У Л`АПЫ** *каго, каму, да каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць злоўленым, схопленым кім-н. **Сін**.: пападаць у кіпцюры *каго, чые, каму*; пападаць у рукі *каго, чые, каму, да каго* (у 2 знач.). **ПАПАСЦІ (ПАПАСЦІСЯ, ТРАПІЦЬ, ТРАПІЦЦА) У ЛАПЫ** *каго, каму, да каго. Зак. Куды важней гэты месяц недзе перабыць, каб не папасціся ў лапы да немцаў.* Быкаў. *Улетку дваццаць шостага года паштальён быў западозраны і першы раз трапіў у лапы дэфензівы.* Брыль. *Пад Карэлічамі ранены хлопец трапіў у лапы паліцаям.* Карпюк.

**ПАПАД`АЦЬ (ПАПАД`АЦЦА, ТРАПЛ`ЯЦЬ, ТРАПЛ`ЯЦЦА) У Р`УКІ** *каго, чые, каму, да каго. Незак. Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Аказвацца ў чыім-н. уладанні, распараджэнні і пад. **ПАПАСЦІ (ПАПАСЦІСЯ, ТРАПІЦЬ, ТРАПІЦЦА) У РУКІ** *каго, чые, каму, да каго. Зак. Дапусціліся да таго, што пратакол папаў у рукі паліцыі.* Колас. *Трэба было лічыцца з тым, што ліст можа трапіць у чужыя рукі.* Гартны. *Праз сто-дзвесце гадоў яна [кніга] некаму трапіць у рукі, і ён прачытае прозвішча не толькі аўтара, але і рэдактара, і мастака, і карэктара, будзе ведаць, што жылі такія людзі.* Грахоўскі.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Быць злоўленым, схопленым кім-н. **Сін**.: пападаць у кіпцюры *каго, чые, каму*; пападаць у лапы *каго, каму, да каго. Лаўрэн заўсёды прыносіць з палявання зайцоў, удаецца яму і на птушку, трапляе Лаўрэну ў рукі і ліс, і тхор, і гарнастай.* Самуйлёнак. **ПАПАСЦІ (ПАПАСЦІСЯ,**

**ТРАПІЦЬ, ТРАПІЦЦА) У РУКІ** *каго, чые, каму, да каго. Зак. Наталя не адна папала ў рукі паліцыі: у той вечар па ўсім горадзе пракацілася хваля вобыскаў ды арыштаў.* Гартны. *«Асцерагайся, сынок, хай іх ліха, з панамі, — сказала яна. —Пападзешся ім у рукі — не памілуюць...»* Брыль. *Ляснічы.. адступіў са сваімі, каб не трапіць у рукі фашыстаў.* Шамякін. *[Герасім:] Трапіш да іх у рукі, то не вырабішся. За гэта павесяць.* Лобан.

**ПАПАД`АЦЬ (ПАПАД`АЦЦА, ТРАПЛ`ЯЦЬ) У ПЕРАПЛ`ЁТ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Аказвацца ў цяжкім, небяспечным ці непрыемным становішчы. **Сін**.: заходзіць у тупік; папасціся ў нерат <ні ўзад ні ўперад>; трапляць у пастку; трапляць у тупік. *Міхась.. пападаўся, як кажуць, не адзін раз у пераплёт, шмат пабачыў, шмат перажыў.* Лынькоў. *Рахлінскі зразумеў, у чым справа, не раз трапляў у пераплёт, хацеў крычаць, але мужчыны (гэта былі партызаны) заткнулі яму рот.* Гурскі. **ПАПАСЦІ (ПАПАСЦІСЯ, ТРАПІЦЬ) У ПЕРАПЛЁТ.** *Зак. Азірнуўся коса дзед — прад вачыма пісталет. Дзед ажно разявіў рот — трапіў к дзеўцы ў пераплёт.* Астрэйка.

**ПАПАД`АЦЬ (ТРАПЛ`ЯЦЬ) НА З`УБ** *каму, каго, чаго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Станавіцца прадметам чыёй-н. увагі, крытыкі, ганення і пад. **ПАПАСЦІ (ТРАПІЦЬ) НА ЗУБ** *каму, каго, чаго. Зак. Па тым, як гаварыў з ім сакратар, Прымачак зразумеў, што пакуль што яго з работы не будуць адпраўляць, — ёсць яшчэ і горшыя гаспадаркі. Каб яму пашанцавала, каб не папаў на зуб з самага пачатку, то сядзеў бы ціха, як і іншыя сядзяць.* А.Жук. *Адной з прычын з'яўляецца ў нейкай меры і беспрынцыповасць кожнага з нас, боязь трапіць на зуб грамадскай думкі.* «Звязда». *І, не баючыся трапіць на зуб паліцыі, людзі, нават далёкія ад палітыкі, падтрымлівалі яго [Альшэўскага].* Калеснік.

**ПАПАД`АЦЬ (ТРАПЛ`ЯЦЬ) П`АЛЬЦАМ У Н`ЕБА.** *Незак. Разм. Жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць ці рабіць што-н. неўпапад, недарэчна. **Сін**.: не туды гнуць (у 2 знач.). **Ант**.: пападаць у цэль; пацэліць у дзесятку; як у сук уляпіў. *Потым, калі крытык перайшоў непасрэдна да разгляду вершаў, пачаў пападаць пальцам у неба.* «ЛіМ». **ПАПАСЦІ (ТРАПІЦЬ) ПАЛЬЦАМ У НЕБА.** *Зак. Як нейкую вялікую мудрасць, кажа [прамоўца], што трэба, каб калгасы паступова «праводзілі ўсё ў такім самым выглядзе, як фабрыкі і заводы»! Папаў пальцам у неба!* Мележ. *—Значыць, вы Пятроў? — Трапіў пальцам у неба... Зрэшты, маё прозвішча таксама на «п»...* Аношкін.

**ПАПАД`АЦЬ (ТРАПЛ`ЯЦЬ) У Ц`ЭЛЬ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв.

пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць ці рабіць іменна тое, што патрэбна. **Сін**.: пацэліць у дзесятку; пацэліць у <самы> яблычак; як у сук уляпіў. **Ант**.: не туды гнуць (у 2 знач.); пападаць пальцам у неба. *Або Дымок рабіўся чужым, або думкі, пошукі Васіля Пятровіча злавалі яго, або ён, ахабіўшыся, лічыў ужо за лепшае адмежавацца ад чалавека-блытаніка, які не часта трапляе ў цэль.* Карпаў. **ПАПАСЦІ (ТРАПІЦЬ) У ЦЭЛЬ.** *Зак. Каржакевіч тут з радасцю ўбачыў, што ён тады, на першым сходзе, папаў у цэль, што цяпер яго справа будзе рабіцца без яго.* Крапіва.*—Я ж бачыў, Юраська, як ты сягоння блінцы здорам мазаў, а кажаш, што не снедаў, — пачуўся голас і, мусіць, якраз трапіў у цэль, бо Юраська вінавата махнуў рукою і сказаў:* —А *чорт вас ведае!* Чорны.

*ПАПАДРЫВАЦЬ* ● **Б`ОКІ (БАК`І) ПАПАДРЫВ`АЦЬ.** *Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. сукупнасці асоб. Вельмі моцна і доўга, да знямогі папасмяяцца (пра ўсіх, многіх). *Тут непадалёку калгаснікі косяць, а яны [Яўхім і Рыгор] і дзень і другі – усё мяжу адброджваюць. Бокі тады суседзі пападрывалі, на іх гледзячы.* Чорны.

*ПАПАЛА* ● **ЛЯЙЧЫНА ПАД ХВОСТ ПАПАЛА** *каму.* Гл. ляйчына.

*ПАПАЛАМ* ● **З Г`ОРАМ ПАПАЛ`АМ.** *Акал. Разм.* З вялікай цяжкасцю, ледзь-ледзь. **Сін**.: з грахом папалам (у 2 знач.); з рыпам і скрыпам; са скрыпам. *Ведаючы літары.., [Мысліцкі] мог клыпаць з горам папалам па купістых радках «Залатой кніжкі шляхты польскай».* Мурашка. *Тлумачыў [Марцін], як пісаць, а некаторым непісьменным пісаў сам, а гаспадар толькі падпісваўся з горам папалам.* Каваленка.

**З ГРАХ`ОМ ПАПАЛ`АМ.** *Акал. Разм.* **1.** Падманным спосабам, несумленна, ашуканствам. *Які я камандзір? Не ведаў нават, як і стрэльбу трымаць, а пра каманды ці маршы і не пытай!.. Так з грахом папалам трымаюся ды баюся, каб за шкірку не выштурхнулі.* Мрый.

**2**. З вялікай цяжкасцю, ледзь-ледзь. **Сін**.: з горам папалам; з рыпам і скрыпам; са скрыпам. *[Кучук:] Можна сказаць, пачынаецца толькі, арганізоўваемся. Пасяўную сяк-так адбылі. З грахом папалам, як кажуць.* Лобан. *Сярэднюю школу Сямён кончыў з грахом папалам, у старэйшых класах сядзеў па два гады.* Чарнышэвіч.

**ПАПАЛ`АМ С`ІЛЫ.** *Абл. Акал. Разм.* Перакрыжаваўшыся (пры баруканні) так, што адна рука знаходзіцца на плячы суперніка, а другая пад пахай (браць, узяць, схапіць і пад.). *—Давай, Ілька, падужаемся. Марта кажа, што ты моцны хлопец. —І, не дачакаўшыся адказу, Лях хапіў Ільку папалам сілы, прыцісну падбародак к плячу, як клешчамі абхапіў сярэдзіну.* Каваль.

*ПАПАЛАСКАЦЬ* ● **ПАПАЛАСК`АЦЬ К`ОСЦІ (К`ОСТАЧКІ)** *чые, каго. Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Папляткарыць, абгаварыць каго-н. **Сін.**: пачасаць язык (у 2 знач.). *Не трэба лішніх плётак. А тут любяць папаласкаць костачкі. Ты паедзеш, а мне тут жыць... Давай дамовімся: ты мой брат...* Грахоўскі.

*ПАПАСЦІ* ● **ПАПАСЦІ НА ВОЧЫ** *каму. Зак. да* **ПАПАДАЦЬ НА ВОЧЫ** *каму.*

**ПАПАСЦІ НА ЗУБ** *каму, каго, чаго. Зак. да* **ПАПАДАЦЬ НА ЗУБ** *каму, каго, чаго.*

**ПАПАСЦІ НА КРУЧОК** *каму, чый, да каго. Зак. да* **ПАПАДАЦЬ НА КРУЧОК** *каму, чый, да каго.*

**ПАПАСЦІ НА ЯЗЫК** *каму. Зак. да* **ПАПАДАЦЬ НА ЯЗЫК** *каму.*

**ПАПАСЦІ ПАД РУКУ** *каму. Зак. да* **ПАПАДАЦЬ ПАД РУКУ** *каму.*

**ПАПАСЦІ ПАЛЬЦАМ У НЕБА.** *Зак. да* **ПАПАДАЦЬ ПАЛЬЦАМ У НЕБА**.

**ПАПАСЦІ Ў КІПЦЮРЫ** *каго, чые, каму. Зак. да* **ПАПАДАЦЬ У КІПЦЮРЫ** *каго, чые, каму.*

**ПАПАСЦІ Ў ЛАПЫ** *каго, каму, да каго. Зак. да* **ПАПАДАЦЬ У ЛАПЫ** *каго, каму, да каго.*

**ПАПАСЦІ Ў ПЕРАПЛЁТ.** *Зак. да* **ПАПАДАЦЬ У ПЕРАПЛЁТ.**

**ПАПАСЦІ Ў РУКІ** *каго, чые, каму, да каго. Зак. да* **ПАПАДАЦЬ У РУКІ** *каго, чые, каму, да каго.*

**ПАПАСЦІ Ў ЦЭЛЬ.** *Зак. да* **ПАПАДАЦЬ У ЦЭЛЬ.**

*ПАПАСЦІСЯ* ● **ПАПАСЦІСЯ НА ВОЧЫ** *каму. Зак. да* **ПАПАДАЦЦА НА ВОЧЫ** *каму.*

**ПАПАСЦІСЯ НА КРУЧОК** *каму, чый, да каго. Зак. да* **ПАПАДАЦЦА НА КРУЧОК** *каму, чый, да каго.*

**ПАПАСЦІСЯ НА ЯЗЫК** *каму. Зак. да* **ПАПАДАЦЦА НА КРУЧОК** *каму.*

**ПАПАСЦІСЯ ПАД РУКУ** *каму. Зак. да* **ПАПАДАЦЦА ПАД РУКУ** *каму.*

**ПАПАСЦІСЯ Ў КІПЦЮРЫ** *каго, чые, каму. Зак. да* **ПАПАДАЦЦА Ў КІПЦЮРЫ** *каго, чые, каму.*

**ПАПАСЦІСЯ Ў ЛАПЫ** *каго, каму, да каго. Зак. да* **ПАПАДАЦЦА Ў ЛАПЫ** *каго, каму, да каго.*

**ПАП`АСЦІСЯ (УЛ`ЕЗЦІ, ЗАЛ`ЕЗЦІ, ТР`АПІЦЬ) У Н`ЕРАТ <НІ ЎЗ`АД НІ УП`ЕРАД>.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Аказацца ў непрыемным, няёмкім ці бязвыхадным становішчы. **Сін.**: заходзіць у тупік; пападаць у пераплёт; трапляць у пастку; трапляць у тупік. *[Максім:] Вось так папаўся ў нерат — ні ўзад ні ўперад!* Купала.

*[Цярэшка:] Ну выйдзіце з хаты, я нешта маці хачу сказаць. Во папаўся ў нерат — ні ўзад ні ўперад.* Макаёнак. *[Кручкоў:] Годзячы вас, бяду на сябе бяру; толькі пад такой кандыцыяй, каб Ціхон з Ліпскім навек з сабою памірыліся, ды каб я з-за вас не ўлез у нерат.* Дунін-Марцінкевіч. *Божачка, як можа трапіць у нерат зусім невінаваты чалавек.* Пальчэўскі. *Змораныя чырвонаармейцы прыпыніліся ў невялічкім маёнтку. Трэба было адпачыць і агледзецца, каб не трапіць у нерат.* Грахоўскі. *Хм... так... заблытаўся ты, браце мой, залез у нерат...* Зарыцкі.

**ПАПАСЦІСЯ Ў ПЕРАПЛЁТ.** *Зак. да* **ПАПАДАЦЬ Ў ПЕРАПЛЁТ**.

**ПАПАСЦІСЯ Ў РУКІ** *каго, чые, каму, да каго. Зак. да* **ПАПАДАЦЦА Ў РУКІ** *каго, чые, каму, да каго.*

*ПАПЕРКА* ● **Л`АКМУСАВАЯ ПАП`ЕРКА.** *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Сродак выяўлення, праверкі адносін паміж кім-н. *Лізавета Аркадзьеўна адыгрывала ў дадзеным выпадку ролю лакмусавай паперкі, на якой і праяўляліся ўзаемаадносіны яе сына і нявесткі.* Асіпенка. *Швейк стаў яшчэ пры жыцці Гашака «лакмусавай паперкай». Па адносінах да яго высвятлялася ўсё прагрэсіўнае і рэакцыйнае.* «Настаўн. газ.»

*ПАПЕРУ* ● **КЛАСЦІСЯ НА ПАПЕРУ.** Гл. класціся.

**ПРОСІЦЦА НА ПАПЕРУ.** Гл. просіцца.

**ПЭЦКАЦЬ ПАПЕРУ.** Гл. пэцкаць.

*ПАПЕРЫ* ● **НА ПАП`ЕРЫ.** *Акал. Разм.* Фармальна, па дакументах, у пісьмовым выглядзе, а не ў сапраўднасці. *Палі — занядбаныя, пустазелля — не абабрацца, угнаенняў мала, севазвароты лічыліся толькі на паперы.* Дуброўскі. *Гэты графік распрацаваны самім жа Артамонавым разам з дыспетчарамі. На паперы ўсё выглядала як нельга лепш. А як будзе на справе?..* Васілёнак.

*ПАПІШАШ* ● **НІЧ`ОГА НЕ ПАП`ІШАШ.** *У абаг.-асаб. знач. Зак. Разм.* Мусіш пагадзіцца, бо іншага выйсця няма. **Сін**.: дзе <ты> дзенешся; не дзе дзенешся; нідзе не дзенешся; нічога не зробіш; нічога не парадзіш; што зробіш. *—А, Андрэй, вось не пазнаў, браце, цемень, бачыш. Ну, як «кукуеш»? —Кукую, нічога, браток, не папішаш...* Лынькоў. *—Нічога не папішаш... — разважалі бродаўцы. —Навокал — балота. Не павялічыш зямлі.* Баранавых.

*ПАПЛАКАЦЬ* ● **ПАПЛ`АКАЦЬ У КАМІЗ`ЭЛЬКУ**. *Зак. Разм. Іран. ці жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паскардзіцца некаторы час на свой лёс, каб расчуліць каго-н., выклікаць спагаду да сябе. *[Жлукта:] Мая справа даць кліенту тое, чаго ён хоча. Хоча піць,*

*няхай п'е; хоча ў камізэльку паплакаць, няхай паплача.* Крапіва. *Хваліцца няма чым. Вечарамі дома. Нудота страшэнная. Можа б, і сёння не напісала, каб не захацелася паплакаць у камізэльку...* Гроднеў.

*ПАПЛЫЛА* ● **ЗЯМЛЯ ПАПЛЫЛА З-ПАД НОГ** *у каго.* Гл. зямля.

*ПАПЛЫСЦІ* ● **ПАПЛЫСЦІ МІЖ ПАЛЬЦАЎ.** *Зак. да* **ПЛЫСЦІ МІЖ ПАЛЬЦАЎ.**

*ПАПОВЫ* ● **НА ПАПОВЫ САНІ** *збірацца.* Гл. сані.

*ПАПОМНІШ* ● **ПАПОМНІШ МАЁ СЛОВА.** Гл. памянеш.

*ПАПОЎСКАЕ* ● **ПАПОЎСКАЕ ВОКА** *ў каго.* Гл. вока.

*ПАПРАВІЦЬ* ● **ПАПР`АВІЦЬ (ПАЛЯЧ`ЫЦЬ) ГАЛАВ`У (ГАЛ`ОЎКУ)**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выпіць спіртнога на другі дзень пасля моцнай выпіўкі, каб пазбавіцца ад недамагання; пахмяліцца. *Зараз абед прынясуць, паправіш галаву. За дружбу па сто [грамаў]...*Макаёнак. *Пасля начной бессані, дачакаўшыся рання, курылі, некаторыя, мабыць, мяркуючы, як і Гаворка, дзе паправіць галоўку.* Быкаў. *– Галава не баліць, Няфёд Піліпавіч? – Не баліць... Але паправіць трэба: не баліць, дык можа забалець. – Сядай. Зрабі прафілактыку.* Воранаў. *– Дайце чаго-небудзь галаву палячыць! – А чэмеру ці воўчага лыка не хочаш? Ты Мані ўчора каня даў. Ідзі ў яе і прасі!* Шырко. *Шусціка турбавала іншая думка: – Не шкодзіла б да старшыні зайсці, галаву палячыць.* Каўка.

**ПАРТРЭТ ПАПРАВІЦЬ** *каму. Зак. да* **ПАПРАЎЛЯЦЬ ПАРТРЭТ** *каму.*

*ПАПРАСІЦЬ* ● **ПАПРАСІЦЬ РУКІ** *чыёй, каго, у каго. Зак. да* **ПРАСІЦЬ РУКІ** *чыёй, каго, у каго.*

**П`ІЦЬ ПАПРАС`ІЦЬ** *у каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адчуўшы чыю-н. перавагу, быць пераможаным, здацца каму-н. **Сін**.: здаваць <свае> пазіцыі; стаяць на каленях *перад кім. [Ксёндз:] У пані Ядзі погляд, бож-жа ж мой! Як блісне з-пад брывоў — любое сэрца скосіць, — хай абрасло яно і рыбінай луской, — раз блісне, два — хлопец піць папросіць.* Клімковіч. *Гарунова ён [Варанецкі] ведаў, як чалавека рашучага, напорыстага: калі трэба, то ўжо так можа прыперці да сценкі, што піць папросіш.* Дуброўскі.

*ПАПРАЎ* ● **ПАПР`АЎ КАЗ`Е ХВ`ОСТ.** *Выкл. Праст.* Выказванне незадавальнення, абурэння тым, хто, умешваючыся ў размову, папраўляе каго-н., дае парады. *—Вось вы тут кажаце — калгас, абагульненне жывёлы, каб, значыцца, нічыё, калектыўна, ну, значыць, гуртам... леканструкцыя сельскай гаспадаркі... —*

*Рэканструкцыя!.. —Папраў казе хвост! Што ты не даеш мне слова сказаць?* Колас. *—А маці яго, казалі, кандыдат у дэпутаты. —Кандыдат навук... —Папраў казе хвост... —адказала Маня і працягвала: — А божухна, ніхто й не ведаў!* Дайліда.

*ПАПРАЎЛЯЦЬ* ● **ПАРТР`ЭТ ПАПРАЎЛ`ЯЦЬ** *каму. Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна біць каго-н. па твары. **Сін.**: даць ляшча *каму*; прыкладваць руку (у 1 знач.). *А ў палку яго [палкоўніка], ведаеш жа сам, вельмі не любілі, бо не аднаму мне ён партрэт папраўляў.* Крапіва. **ПАРТРЭТ ПАПРАВІЦЬ** *каму. Зак.*

*ПАПСАВАЦЬ* ● **ПАПСАВАЦЬ АБЕДНЮ** *каму. Зак. да* **ПСАВАЦЬ АБЕДНЮ** *каму.*

**ПАПСАВАЦЬ КРОЎ САБЕ.** *Зак. да* **ПСАВАЦЬ КРОЎ САБЕ**.

<u>*Многа, шмат, нямала, колькі*</u> **ПАПСАВ`АЦЬ КРЫВ`І** *каму. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. (Многа і інш.) нарабіць, прычыніць непрыемнасцей каму-н. **Сін.**: вывесці з сябе *каго*; пайграць на нервах *<чыіх, каму>*. *Многа лішніх мазалёў села на цвёрдыя Янкавы пальцы, многа крыві папсавала яму гэтая тонкая ювелірная справа.* Дамашэвіч. *А ўвогуле я табою сёння задаволены... Хоць ты мне і шмат папсаваў крыві...* Місько. *Неразумны выпадак, ён шмат чаго каштаваў у жыцці Баніфацыя Скашынскага і нямала папсаваў яму крыві.* Чарнышэвіч. *Настырная, колькі мне крыві папсавала! Узяла ў галаву, што ў яе нейкія таленты. Пяе, малюе...* Ракітны.

**ПАПСАВАЦЬ ПАВЕТРА.** *Зак. да* **ПСАВАЦЬ ПАВЕТРА**.

**ПАПСАВ`АЦЬ (ПАТРАП`АЦЬ) Н`ЕРВЫ** *каму. Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Прымусіць каго-н. расхваляваца, разнервавацца. **Сін.**: парваць нервы (у 2 знач.); растузаць нервы. *Вось успомніце, колькі вы мне ўжо нерваў папсавалі сваімі прыдзіркамі.* Радкевіч. *А ў маім гуртку няма «канікул», ка мне прыбягае [Пакінька]... нервы патрапаць... І не забароніш!..* Місько. *Не, трэба ўсё ж хоць крыху папсаваць ёй нервы: і за тыя «выступленні», і за Бялецкага, і за ланцужок.* Кадзетава. *Колькі ён папсаваў нерваў жонцы, а тая яму з-за Інчынага паступлення, і ўсё дарма...* І.Капыловіч.

*ПАПУ* ● **СВЯЦЕЙШЫ ЗА ПАПУ РЫМСКАГА.** Гл. свяцейшы.

*ПАПУСКАЦЬ* ● **ПАПУСКАЦЬ ЛЕЙЦЫ.** Гл. адпускаць.

*ПАПУСЦІЦЬ* ● **ПАПУСЦІЦЬ ЛЕЙЦЫ.** *Зак. да* **ПАПУСКАЦЬ ЛЕЙЦЫ.**

*ПАПУХЛІ* ● **ВУШЫ ПАПУХЛІ** *ў каго.* Гл. вушы.

*ПАПЯРОВАЯ* ● **ПАПЯРОВАЯ ДУША.** Гл. душа.

*ПАПЯРЭЧНЫ* ● **СТРЭЧНЫ <І> ПАПЯРЭЧНЫ.** Гл. стрэчны.

*ПАРА* ● **ДВА БОТЫ ПАРА.** Гл. боты.

**НЕ П`АРА** *каму. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не падыходзіць па якіх-н. якасцях. **Ант**.: да пары *каму. [Грыпіна:] Аб сенажаці думай сабе колькі хочаш, а вось аб Зосьцы кінь думаць... Не раз казала і цяпер кажу, што яна табе не пара...* Чарот. *—У мяне свая галава. —У Сцяпанавым голасе пачулася ўпартасць. —І Яўхім мне не пара!* Мележ.

*ПАРАДАК* ● **ПАР`АДАК ДН`Я**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Кола пытанняў, прызначаных для абмеркавання ў пэўнай паслядоўнасці на сходзе, пасяджэнні і пад. *Дня парадак іх наступны: 1. – За два дні даклад уступны зробіць сябра Вадалей. 2. – Перакажа ўвесь нанова яго зноў Балбатунова. 3. – Потым спрэчкі, а далей: 4. – Скажа дзядзька Целяпала і дапоўніць Кругабегаў пра ўжыванне для апалу пазалеташняга снегу. 5. – На канцы парадку дня – аб чым хочаш балбатня.* Крапіва. *Прыйшлося мяняць парадак дня для канферэнцыі.* Грахоўскі. *Зацвердзілі парадак дня, і з прамовай выступіў Кіпень.* Пашкевіч. *Быліч перайшоў на сваё старшыньскае месца, аб'явіў пасяджэнне адкрытым, прапанаваў парадак дня, за які прагаласавалі аднадушна, амаль механічна.* Блакіт.

*ПАРАДАМ* ● **КАМАНДАВАЦЬ ПАРАДАМ.** Гл. камандаваць.

*ПАРАДЗІШ* ● **НІЧ`ОГА НЕ ПАР`АДЗІШ.** *Зак. У абаг.-асаб. знач. Разм.* Мусіш пагадзіцца, бо іншага выйсця няма. **Сін**.: дзе <ты> дзенешся; не дзе дзенешся; нідзе не дзенешся; нічога не зробіш; нічога не папішаш; што зробіш. *—Нічога не парадзіш — будзем збірацца ў Альбуць... І там людзі жылі, і мы неяк жыць будзем, — разважыў дзядзька.* С.Александровіч. *Што такое канспірацыя — Грыбоўскі не ведаў. Але ён добра разумеў, што паважаны пан Пшыбыцкі і на гэты раз мяркуе заграбаць жар чужымі рукамі, і нічога тут не парадзіш.* Курто.

*ПАРАДКАМ* ● **СВА`ІМ ПАР`АДКАМ** *ісці (пайсці)* і пад. *Акал. Функц. не зам.* У прывычнай паслядоўнасці; так, як заўсёды, як звычайна. *Сваім парадкам ідзе работа, чуецца вясёлая гамана...* Вітка. *Думкі ідуць сваім парадкам. Яны ідуць, не даючы заснуць, і ўсё больш і больш хвалююць сэрца.* Васілёнак. *Далей усё пайшло сваім парадкам: насілі мяне ў калысцы на поле, пасля я сам хадзіў, ухапіўшыся за матчын падол, а ў калысцы насілі другога, потым пасвіў свіней, потым кароў.* Крапіва.

*ПАРАДКУ* ● **У ПАЖ`АРНЫМ ПАР`АДКУ.** *Акал. Разм.* Даволі спешна, надзвычай хутка (рабіць, зрабіць што-н.). *Кніга выдавалася, як*

*кажуць, у пажарным парадку.* Грахоўскі. *Корзун, атрымаўшы ў адпаведнай інстанцыі спагнанне, у пажарным парадку адмяніў загад аб нагрузцы.* «Звязда».

**У ПАР`АДКУ.** *У знач. вык. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн., выраж. займ. *усё.* Добра, паспяхова; так, як і павінна быць. **Сін**.: у ажуры (у 1 знач.). *Хлопцы вярнуліся і сказалі, што ўсё ў парадку — нідзе нікога няма.* Пестрак. *[Семяніхін:] Ты як, Касцюкевіч? [Касцюкевіч:] Я? У мяне ўсё ў парадку.* Маўзон. *[Стары слуга:] Старайцеся! Ды глядзіце, каб усё было ў парадку, каб пасля ўсім нам адказваць не давялося.* В.Вольскі. *—А ты не ўнікай адказу, бо ўсё будзе ў парадку, — сказаў Ролік.* Караткевіч.

**2.** Ужыв. пры дзейн. са знач. адуш. і неадуш. прадмета. Добры, у добрым стане. **Сін**.: у ажуры (у 2 знач.). *[Пытляваны:] Ты глядзі, каб коні былі ў парадку. [Стары Верас:] Коні ў парадку.* Крапіва. *—У самога, бач, мабыць, справы не ў парадку, дык і спаганяе абы на кім, — сказаў Ігнась.* Мурашка. *—Астатняе ў парадку? —У парадку, — паспешліва адказаў Суёпка.* Быкаў.

**У ПАР`АДКУ Р`ЭЧАЎ**. *Вык. Кніжн. Часцей ужыв. пры дзейн. г э т а.* Звычайна, нармальна, натуральна. *Цяжар таго, што застаецца толькі тваім, да болю ясны позірк на самога сябе збоку, нездавальненне сабой наогул і апошняй работай у прыватнасці. Няўжо гэта — «у парадку рэчаў», нармальна?* Брыль. *Жонка бегала па магазінах, варыла, мыла бялізну, нават машыну вадзіла. Ён [муж] лічыў, што гэта ў парадку рэчаў.* Навуменка. *Тут усё ў парадку рэчаў. А зямля так пахне зямлёй!* Вярцінскі. *Людзі жэняцца, выходзяць замуж і разводзяцца. Усё гэта зараз, як кажуць, у парадку рэчаў.* Цяжкі.

*ПАРАЗЯВІЦЬ* ● **ПАРАЗЯВІЦЬ РАТЫ.** Гл. паразяўляць.

*ПАРАЗЯЎЛЯЦЬ* ● **ПАРАЗЯЎЛ`ЯЦЬ (ПАРАЗ`ЯВІЦЬ) РАТ`Ы.** *Зак. Праст. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. сукупнасці асоб. **1.** Крайне здзіўіцца, стаць моцна ўражаным (пра ўсіх, многіх). **Сін.**: дзіву дацца; не паверыць <сваім> вачам; зрабіць вялікія вочы. *І легенда, – калісьці туды вунь, аж на саменькі вільчык, пад крыж, залез у кірмашны дзень нейкі вісус, пачаў там вырабляць, як у цырку, людзі раты паразяўлялі і глядзяць, а тут яго сябры тым часам шныраць, ліха іх зладзейскай матары, па вазах!..* Брыль. *А дай такой Парасцы выгоду, прыбяры ў шаўковую сукенку ды капялюшык, вывядзі на Неўскі – раты паразяўляюць…* Грахоўскі. *Эма паднялася ды так складна адказала, што мы ўсе раты паразяўлялі.* Лупсякоў.

**2.** Зазяваўшыся, перастаць рабіць што-н. (пра ўсіх, многіх). *[Войт:]*

*Чаго раты паразявілі? Прэч з дарогі!* В.Вольскі. – *Чаго раты паразяўлялі? Бензапіл не бачылі? Марш адсюль! – закрычаў на іх, нібы ён тут быў гаспадаром, кітаец Лі Сунь.* Міськo.

*ПАРАЙ* ● **З Л`ЁГКАЙ П`АРАЙ!** *Выкл. Разм.* Прывітанне і пажаданне добрага здароўя таму, хто толькі што памыўся ў лазні. *—З лёгкай парай! —Дзякую. Ванна была выдатная. А вы, нябось, аддаяце перавагу лазні з бярозавым венікам?* Васілёнак. *Знаёмы малюнак: паружавелыя, памаладзелыя, задаволеныя людзі варочаюцца з лазні. —З лёгкай парай! — вітаюць іх тыя, хто з венікамі пад пахай крочаць на сустрэчу са спрадвечнай крыніцай здароўя.* «Вожык». *Раптам заходзіць у залу таўсценны дзядзька. Твар чырвоны. Так і хочацца сказаць: «З лёгкай парай!»* Ліпскі.

*ПАРАНАГА* ● **І П`АРАНАГА І В`АРАНАГА І Т`АК КУСК`АМІ (КАВ`АЛКАМІ)** *было ў каго, дзе. У безас. ужыв. Разм.* Усяго ўдосталь. Пра разнастайнасць ежы. **Сін**.: толькі птушынага малака няма *ў каго, дзе. У Грамабоя было, як той казаў, і паранага і варанага і так кускамі, а над усім красавалася бутэлька першаку-самагону.* Крапіва. *Людзі ведалі апетыты салдатаў, калі тыя ўрываліся ў хаты, чысцілі і так ужо згалелыя кублы, таму толькі пасміхаліся: — Ага, і варанага і паранага і так кускамі было.* Семашкевіч. *Жонка добра пабегала па магазінах. На стале будзе, як той казаў, і паранае і варанае і так кавалкамі.* Васілёнак.

*ПАРАНАЙ* ● **ПРАСЦЕЙ ПАРАНАЙ РЭПЫ.** Гл. прасцей.

*ПАРАСЁМ* ● **ЯК ГУСЬ З ПАРАСЁМ.** Гл. гусь.

*ПАРАСЛО* ● **БЫЛЛЁМ ПАРАСЛО.** Гл. зарасло.

*ПАРАСОН* ● *Патрэбны, трэба* **ЯК Р`ЫБЕ ПАРАС`ОН.** *Акал. Разм. Іран.* Зусім не, нікольκі не (патрэбны каму-н.). **Сін**.: як дзірка ў мосце; як зайцу стоп-сігнал; як леташні снег; як пятае кола ў возе; як сабаку пятая нага. *Думаеш, патрэбен ты ёй? Думаеш, пойдзе яна за цябе? Як рыбе парасон ты ёй патрэбен!* Мехаў. — *Падводзіць Брадэнік. Трэці дзень сядзіць, пустазвон... —Так ён нам трэба быў як рыбе парасон.* Кандрусевіч.

*ПАРАСПУСКАЦЬ* ● **ПАРАСПУСК`АЦЬ ЯЗЫК`І**. *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не стрымліваючыся ў выказваннях, дазволіць гаварыць лішняе. Пра некалькіх асоб. – *Ну, языкі параспускалі! Не дам вам клёцак і панюхаць! – і стаў на клёцку дзядзька дзьмухаць.* Колас. *У святую нядзельку параспускалі языкі? Гжэчныя людзі толькі з касцёла, з царквы ідуць, а панове, выбачайце, ужо ў карчму паспелі зазірнуць.* Наварыч.

*ПАРАСЧЫНЯНЫ* ● **ДЗВЕРЫ ПАРАСЧЫНЯНЫ** *каму, для каго, перад кім.* Гл. дзверы.

*ПАРАСЯЧАГА* ● **ДА ПАРАСЯЧАГА ПІСКУ.** Гл. піску.

*ПАРАХ* ● **НА П`ЕРШЫХ ПАР`АХ.** *Акал. Разм.* Спачатку. *Нельга сказаць, што ўсё тое, што ён [Саша] рабіў, было прадыктавана на першых парах няўхільнай сціплай логікай.* Мікуліч. *Гэта звычайна сярэдняга веку кабеты, у меру далікатныя, увішныя і на першых парах не вельмі гаваркія.* Грахоўскі.

**НА ЎС`ІХ ПАР`АХ**. *Акал. Разм.* Вельмі хутка, з вялікай скорасцю (ляцець, імчацца і пад.). **Сін.**: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы*; без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач); што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант.**: як чарапаха. *А я што раблю? На ўсіх парах лячу. Куды? Да цябе, вядома, трэба падмога...* Савіцкі. *Пад вечар, пазычыўшы ў суседа веласіпед, Мікіта Гаўрылавіч злётаў на ўсіх парах да свайго слупа.* Марчук. *Надзя ўвесь час чакала з'яўлення і сустрэчы з зусім іншымі спадарожнікамі, і не з боку вакзала, чыгункі, адкуль на ўсіх парах неслася, перла, грукацела ўбоства і жабрацтва*. Казько.

*ПАРАХАВАЯ* ● **ПАРАХАВАЯ БОЧКА.** Гл. бочка.

*ПАРАХАЎНІЦАХ* ● **ЁСЦЬ ЯШЧЭ ПОРАХ У ПАРАХАЎНІЦАХ** *у каго.* Гл. порах.

*ПАРАХНЯ* ● **ПАРАХН`Я С`ЫПЛЕЦЦА** *з каго. У безас. ужыв. Разм. Пагард.* Хто-н. вельмі стары, слабы. **Сін**.: порах сыплецца *з каго*; пясок сыплецца *з каго. [Клава:] На рыбалку ёй захацелася. З кім? З яго ж парахня сыплецца... Ці ж гэта мужчына?* Макаёнак. *Хіба на дзеда можна разлічваць, з яго парахня сыплецца.* І.Капыловіч.

**ПАРАХН`Я ПАС`ЫПЛЕЦЦА** *з каго. Зак. У безас. ужыв. Разм. Пагард*. Хто-н. стане вельмі старым, слабым. *Сухар ты! Я цяпер хачу жыць, калі я маладая, а не тады, калі з мяне парахня пасыплецца!* Лобан.

*ПАРАШОК* ● **СЦЕРЦІ Ў ПАРАШОК** *каго.* Гл. сцерці.

*ПАРВАЦЬ* ● **БАКІ ПАРВАЦЬ.** *Зак. да* **РВАЦЬ БАКІ**.

**ПАРВАЦЬ ЖЫВАТЫ <АД СМЕХУ>**. *Зак. да* **РВАЦЬ ЖЫВАТЫ <АД**

**СМЕХУ>.**

**ПАРВАЦЬ КІШКІ.** *Зак. да* **РВАЦЬ КІШКІ.**

**ПАРВ`АЦЬ Н`ЕРВЫ.** *Зак. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна расхваляваецца, разнерваваецца. *На мне служба пагрузкі, абарот вагонаў. Думаеш, прымусіш калгас ці «Сельгастэхніку» разгрузіць вагон? Усе нервы парвеш…* Навуменка.

**2.** *каму. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Прымусіць каго-н. хвалявацца, нервавацца. **Сін.**: папсаваць нервы *каму*; растузаць нервы *каму*. *[Халімон Капыл] паўтараў адну і тую ж фразу: – Усім вайна парвала нервы – і старым, і малым.* Шамякін.

*ПАРВІСЯ* ● **ХОЦЬ ПАРВІСЯ** *каму.* Гл. разарвіся.

*ПАРОБІШ* ● **НІЧОГА НЕ ПАРОБІШ.** Гл. зробіш.

**ШТО ПАРОБІШ.** Гл. зробіш.

*ПАРОБЛЕНЫ* ● **ПАРОБЛЕНЫ НА АДЗІН КАПЫЛ.** Гл. зроблены.

*ПАРОГ* ● **ВОСЬ <ТАБЕ> БОГ, А ВОСЬ ПАРОГ.** Гл. бог.

**НА ПАРОГ НЕ СТУПАЦЬ** <*да каго*>. Гл. ступаць.

**НЕ ПУСКАЦЬ НА ПАРОГ** *каго.* Гл. пускаць.

**ПАКАЗВАЦЬ ПАРОГ** *каму.* Гл. паказваць.

**ПЕРАСТУПАЦЬ ПАРОГ** *чый, чаго.* Гл. пераступаць.

*ПАРОГА* ● **З ПАР`ОГА.** *Акал. Разм. Неадабр.* Адразу і рашуча, без разважанняў (заяўляць, адмятаць і пад.). *Лепшыя спецыялісты чамусьці абавязкова знаходзілі рацыянальнае зерне ў крытычным поглядзе збоку на сваю работу. А вось халтуршчыкі, бракаробы з парога адмяталі ўсе заўвагі «неспецыялістаў».* «Звязда». *Дырэктар моцна абурыўся, калі да яго прыйшлі кантралёры. Заявіў з парога: «Што вы тут правяраеце, я сам разбяруся і навяду парадак.* «Вожык».

*ПАРОГАЎ* ● **АБІВАННЕ ПАРОГАЎ.** Гл. абіванне.

*ПАРОГІ* ● **АБІВАЦЬ ПАРОГІ** *чые, каму, каго, чаго.* Гл. абіваць.

**ПААБІВАЦЬ ПАРОГІ** *чые, каго, чаго.* Гл. паабіваць.

*ПАРОЖНІМІ* ● **З ПАРОЖНІМІ КІШЭНЯМІ.** Гл. кішэнямі.

*ПАРОЖНЯЕ* ● **ПЕРАЛІВАННЕ З ПУСТОГА Ў ПАРОЖНЯЕ.** Гл. пераліванне.

**ПЕРАЛІВАЦЬ З ПУСТОГА Ў ПАРОЖНЯЕ.** Гл. пераліваць.

*ПАРОЖНЯЙ* ● **АД ПАРОЖНЯЙ БОЧКІ ЗАТЫЧКА.** Гл. затычка.

*ПАРОЗЕ* ● **НА ПАР`ОЗЕ.** *Разм.* **1**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Вельмі хутка, у самы бліжэйшы час наступіць, будзе што-н. **Сін.**: на носе; не за гарамі (у 2 знач.). *А старасць усё бліжэй, яна ўжо на парозе.* Панчанка. *Гэта ж я сёння не ўспомніў пра свята. А яно на*

*парозе.* Радкевіч. *Жніво на парозе. Правесці яго хутка, у лепшыя тэрміны і на высокім якасным узроўні — такі галоўны клопат.. хлебаробаў.* «Звязда».

**2**. *чаго. Часцей акал.* Напярэдадні чаго-н., непасрэдна перад тым, што надыходзіць, наступае. *І дзіўна было людзям бачыць дробнага ростам Пархвена Катлубовіча, які стаяў ужо на парозе старасці і так клапаціўся аб сваёй Марылі...* Чорны. *Максім і Кацярына Яніцкія — людзі на парозе пенсійных гадоў — ездзілі па сваю дачку часцей электрычкай.* Ракітны.

*ПАРОЦЬ* ● **ПАР`ОЦЬ В`ОЧЫ** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Папікаць, дакараць, папракаць каго-н. **Сін**.: калоць вочы *каму* (у 1 знач.); калоць у вочы *каму* (у 1 знач.); паказваць пальцам *на каго, на што*; пароць пальцам; пароць у вочы *каму*; тыкаць пальцам *на каго, на што. Ты паедзеш, а што падумае Абрамаў? Уцёк, сляды замятае. Значыць, вінаваты. І мне вочы пачнуць пароць: «Усцігаў хаваў». Можа, даганяць пачнуць. А мне тут лыпай.* Грахоўскі.

**ПАР`ОЦЬ ГАР`АЧКУ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дзейнічаць з залішняй паспешлівасцю, раздражненнем. *А за гэты час можна што і прыдумаць. Трэба пагаварыць з татам, а пароць гарачку яшчэ рана.* Колас. *—Хлопцы, не парыце гарачкі! —А чаго чакаць? — пярэчыць камісар.* Карпюк. **СПАРОЦЬ ГАРАЧКУ.** *Зак. Карзюка апанавала злосць... Мог заходзіць да яе [Марысі] — выведваць паволі. Можна сказаць, спароў гарачку. Хацеў, каб усе адразу...* Баранавых.

**ПАР`ОЦЬ П`АЛЬЦАМ (-АМІ).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач асобы ці сукупнасці асоб. Здзекліва асуджаць, адкрыта ганіць каго-н. **Сін**.: калоць вочы *каму* (у 1 знач.); калоць у вочы *каму* (у 1 знач.); паказваць пальцам *на каго, на што*; пароць вочы *каму*; пароць у вочы *каму*; тыкаць пальцам *на каго, на што. Ну, нельга ж далей тут заставацца. Кожны, годны і нягодны, будзе з цябе насміхацца, хаяць, пароць пальцам, а то яшчэ і свістаць услед.* Дайліда. *Дзіця можна.. [у прытулак] здаць, каб людзі пальцам не паролі.* Лобан.

**ПАР`ОЦЬ У В`ОЧЫ** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Публічна, адкрыта папікаць, дакараць, папракаць каго-н. **Сін**.: калоць вочы *каму* (у 1 знач.); калоць у вочы *каму* (у 1 знач.); паказваць пальцам *на каго, на што*; пароць вочы *каму*; пароць пальцам; тыкаць пальцам *на каго, на што. [Самасееў:] Цяпер табе кожны ў вочы пароць будзе — сядзеў, асуджаны, арыштант!* Макаёнак. *Няма чаго хаваць — уся вёска ведае! У вочы поруць!*

Іпатава. *[Скураны:] Вашы петраградскія аднапартыйцы нават паролі мне ў вочы: свайго войска якраз хочам мы, гэта значыць я і мае сябры-паны...* Далідовіч.

*ПАРОЮ* ● **ЧАСАМ З КВАСАМ, А ПАРОЮ З ВАДОЮ.** Гл.часам.

*ПАРТРЭТ* ● **ПАРТРЭТ ПАПРАЎЛЯЦЬ** *каму.* Гл. папраўляць.

*ПАРУ* ● **ВЫПУСКАЦЬ ПАРУ.** Гл. выпускаць.

**НА П`АРУ** *з кім. Акал. Разм.* Разам, удвух, удзвюх, удваіх з кім-н. (рабіць што-н.). **Сін**.: у пары *з кім. —А дзе старшыня ваш? Паехаў? — Максім? Не-е... Трэці дзень на пару з Мурашкам працуе.* Шамякін. *Мы з Параскай хоць даўно працуем на пару, але яна не такая, як я. Нейкая абыякавая.* Грамовіч.

**НА П`АРУ СЛ`ОЎ.** *Акал. Разм.* Для кароткай размовы, паведамлення і пад. (клікаць, прасіць і пад.). **Сін**.: на адно слова; на <адну> мінуту (у 2 знач.); на два словы; на паўслова. *Гунава падышоў да начальніка, крануў тугое сукно буркі. — Я прасіў бы вас на пару слоў, — ужо больш ветліва сказаў ён.* Самуйлёнак. *Толькі прылёг на тапчане, як зноў пастукалі ў дзверы. І зноў паклікалі «на пару слоў».* Праскураў.

**ПАД П`АРУ** *каму. Азн. Разм.* Падобны да каго-н. у якіх-н. адносінах. *[Тадора:] Бач, патурбавала паноў. Добра, што нявестку сабе пад пару знайшоў; давідна можна спаць, не патурбуе...* Крапіва. *Пад пару Застрамілавай дробны махляр Торгала, «нехта з былых», як гаворыцца ў аўтарскай рэмарцы.* Бугаёў.

*ПАРЫ* ● **ВЫПУСКАННЕ ПАРЫ.** Гл. выпусканне.

**ДА П`АРЫ** *каму. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Падыходзіць каму-н. у сябры, каханкі. **Ант.**: не па́ра каму. – *Хочаш выйсці за Любаміра? Ён вачэй з цябе не зводзіць, малады, здаровы, баярын яго паважае. – Не. Я не хачу за яго. – Вы адно аднаму да па́ры.* Далідовіч. [*Параўн. ва ўкр. м.*: до пари *кому* – з такім жа значэннем.]

**ДА ПАР`Ы ДА Ч`АСУ.** *Акал. Разм.* Пакуль што, часова; да якога-н. тэрміну. *Зразумей ты, дзівак. Нам загадана да пары да часу весці сябе ціха.* Машара. *У жыцці бывае, калі несумленны чалавек да пары да часу займае адказную пасаду ў той ці іншай установе.* Шкраба. *У Лактышы карнікі наведваліся не густа, пабойваліся гэтых маўклівых — да пары да часу — людзей.* Праскураў.

**ЗАДАВАЦЬ ПАРЫ** *каму.* Гл. задаваць.

**І ПАРЫ З РОТА НЕ ПУСЦІЦЬ.** Гл. пусціць.

**ПАДДАВАЦЬ ПАРЫ** *каму.* Гл. паддаваць.

**У П`АРЫ** з *кім. Акал. Разм.* Разам, удвух, удзвюх, удваіх з кім-н.

(рабіць што-н). **Сін**.: на пару з *кім. Але вось на старт, у пары з брыгадзірам калгаса «Светлы* шлях»*, выйшаў Віктар Арлоў, і Наташа ажывілася, захвалявалася.* Шашкоў. *Падносіла Аўгінька цэглу ў пары са старой кабеціна й.* Чарняўская. *Ён, Шакін, з ёй у пары, а я саліpую.* Марчук.

*ПАРЫЦЬ* ● **П`АРЫЦЬ ЗЯМЛ`Ю (ЗЯМ`ЕЛЬКУ).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць мёртвым, пахаваным. **Сін**.: загрымець касцямі (у 1 знач.); злажыць <свае> косці; знайсці сабе магілу *дзе*; класці галаву *за каго, за што дзе*; легчы касцьмі (у 1 знач.); легчы трупам; ляжаць у <сырой> зямлі; навярнуць галавой; накладаць галавой; памінай як звалі (у 1 знач.); парыць косці *дзе*; парыць у зямлі косці; спаць вечным сном; спаць у сырой зямлі; яму засква рыць. *А хоць гора зазнаў, знікла доля навек, Зося парыць зямлю, у свет дзеці пайшлі, — тут жа неяк прывык да ўсяго чалавек, прырос неяк, як корч да зямлі!..* Купала. *Міхед нават прыгавор выслухаў з прыхаваным задавальненнем. Усё-такі жыць, як бы яно там ні было, лепш, чым парыць зямлю.* Сабаленка. *Бабуля доўга плакала, яна думала, што я пару ўжо дзе-небудзь зямлю.* Сяркоў. *Толькі палягчэла жыць, хлеба ўволю есці пачалі, а ён і... Пяць гадкоў ужо зямельку парыць.* Арабей. *[Аксана:] Маіх хлопцаў на вайне пазабівала, жаніхі мае зямельку параць...* Макаёнак.

**П`АРЫЦЬ К`ОСЦІ** *дзе. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць мёртвым, быць пахаваным дзе-н. **Сін**.: загрымець касцямі (у 1 знач.); злажыць <свае> косці; знайсці сабе магілу *дзе*; класці галаву *за каго, за што дзе*; легчы касцьмі (у 1 знач.); легчы трупам; ляжаць у <сырой> зямлі; навярнуць галавой; накладаць галавой; памінай як звалі (у 1 знач.); парыць зямлю; парыць у зямлі косці; спаць вечным сном; спаць у сырой зямлі; яму засквapыць. *Бацька ўжо багата гадоў парыў косці на ваенным полі...* Мележ. *—А толькі ж вельмі шкада хлопца. Мы тут дома, можна сказаць. А ён... Дзе тая яго Арменія? Тысячы кіламетраў... —Не ўсё адно, дзе косці парыць...* Місько. *Бацька згінуў нечакана ў маладым узросце — за глухім жыцця парканам год як парыць косці.* «Полымя».

**П`АРЫЦЬ У ЗЯМЛ`І (У ЗЯМ`ЕЛЬЦЫ) К`ОСЦІ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць мёртвым, быць пахаваным. **Сін**.: загрымець касцямі (у 1 знач.); злажыць <свае> косці; знайсці сабе магілу *дзе*; класці галаву *за каго, за што дзе*; легчы касцьмі (у 1 знач.); легчы трупам; ляжаць у <сырой> зямлі; навярнуць галавой; накладаць галавой; памінай як звалі (у 1 знач.); парыць зямлю; парыць косці *дзе*; спаць вечным сном; спаць у сырой зямлі; яму засквapыць. *Чым з*

*табою піць, гуляці, ночкі каратаці, — лепш навекі косці парыць у зямельцы-маці!* Купала. *—Ну, вось і выжыў, — прадаўжаў Гарашчэня, — а то парыў бы ў зямлі косці. Спяшацца няма чаго на той свет.* Гурскі. *Хоць як яны ні пнуцца, а толку мала. Зямлю аддаваць не хочуць, дык няхай параць у ёй косці.* Грахоўскі.

*ПАСАД* ● **САДЗІЦЬ НА ПАСАД** *каго.* Гл. садзіць.

*ПАСАДЗІЦЬ* ● **ПАСАДЗІЦЬ НА ВАДУ** *каго. Зак. да* **САДЗІЦЬ НА ВАДУ** *каго.*

**ПАСАДЗІЦЬ НА МЕЛЬ** *каго, што. Зак. да* **САДЗІЦЬ НА МЕЛЬ** *каго, што.*

**ПАСАДЗІЦЬ НА ПАСАД** *каго. Зак. да* **САДЗІЦЬ НА ПАСАД** *каго.*

**ПАСАДЗІЦЬ НА ШЫЮ** *чыю, каму каго. Зак. да* **САДЗІЦЬ НА ШЫЮ** *чыю, каму каго.*

**ПАСАДЗІЦЬ У ГАЛОШ** *каго. Зак. да* **САДЗІЦЬ У ГАЛОШ** *каго.*

**ПАСАДЗІЦЬ У ЛУЖЫНУ** *каго. Зак. да* **САДЗІЦЬ У ЛУЖЫНУ** *каго.*

*ПАСАЛІЎШЫ* ● **ПАСАЛІЎШЫ МОЖНА ЕСЦІ.** Гл. есці.

*ПАСВІСТАЦЬ* ● **ПАСВІСТАЦЬ У КУЛАК.** *Зак. да* **СВІСТАЦЬ У КУЛАК**.

*ПАСВІЎ* ● **СВІН`ЕЙ НЕ П`АСВІЎ** *з кім. Разм. Пагард.* Часцей ужыв. пры дзейн.-займ. *я.* Не раўня каму-н., не аднолькавы з кім-н. (паводле ўзросту, сацыяльнага становішча і пад.). *—Я да яго кажу як звычайна, па прывычцы, таварыш,— расказваў Райхман, — а ён паглядзеў на мяне ды кажа: «Я з табой свіней не пасвіў, які я табе таварыш».* Галавач. *Пана як хто ўкалоў вострымі іголкамі. —З кім ты патыкайся, хам! Я свіней з табою не пасвіў.* Якімовіч. *Не-не ды і сустрэнеш, у нашым асяроддзі, на жаль, адваротнае, калі з боку маладзейшага калегі ў дачыненні да старэйшага майстра дапускаецца гэткая прасцяцкая фамільярнасць. У народзе ў такім разе кажуць: я з табою свіней не пасвіў.* Паўлаў.

*ПАСВЯЦІЦЬ* ● **ПАСВЯЦІЦЬ ВАЧАМІ.** *Зак. да* **СВЯЦІЦЬ ВАЧАМІ**.

*ПАСЕ* ● **ДЗЕ МАКАР КОЗЫ ПАСЕ.** Гл. макар.

*ПАСЕЯНА* ● **НЕ ПОЛЕ ПАСЕЯНА** *каго.* Гл. насеяна.

*ПАСЕЯЎ*● **БУСЯЛ РЭПУ ПАСЕЯЎ** *у каго.* Гл. бусел.

*ПАСКАКАЦЬ* ● **ПАСКАК`АЦЬ ДР`ОЗДЗІКА.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Памучыцца ў цяжкіх умовах. *Каму ты міл, скажы, ў бядзе? Эх, не прытулішся нідзе? Паскачаш дроздзіка, бы скочка, калі няма свайго куточка.* Колас.

**2**. Мець непрыемнасці ад каго-н., адчуць на сабе чыю-н. уладу. *Неяк вярнуўся бацька з Мікалаеўшчыны і кажа хлопцам — вучыў вас Фурсевіч, Яська Базылёў, але ім з вамі, шэльмамі, цяжка было даць*

*рады... Цяпер няхай трохі памуштруе Корзун. Там вы паскачаце дроздзіка...* С.Александровіч. *—Не перажывайце, Сцяпанавіч. Я на вас не ў крыўдзе. —І да нас: —А вы, хлопчыкі, ах і патруднуеце, паскачаце дроздзіка!..* Масарэнка.

*ПАСКАЛІЦЬ* ● **ПАСК`АЛІЦЬ З`УБЫ.** *Зак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пасмяяцца, панасміхацца з каго-н. **Сін.**: пасушыць зубы. *Вам толькі з бабы нягграматнае і зубы паскаліць.* А.Жук. – *Колькі часу зубы паскаліш, бывала… дый яшчэ з калгасным старшынёй пасварышся, і ўсё было добра, – дадала суседка.* Пестрак.

*ПАСКРУЧВАЦЬ* ● **ПАСКР`УЧВАЦЬ ГАЛ`ОВЫ** *каму. Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. сукупнасці асоб. Знішчыць, забіць каго-н. (пра многіх, усіх). *Мы ж яго [ворага] шчыльнай сцяною абкружым, галовы паскручваем гадам.* Крапіва. – *Пахвалішся, калі скарэй за іх возьмеш [зямлю]. – А і вазьму. Хай паспрабуюць мяне абмінуць. Я і галовы ім паскручваю.* Лобан.

*ПАСЛАЎ* ● **БОГ ПАСЛАЎ** *каму каго, што.* Гл. бог.

**САМ БОГ ПАСЛАЎ** *каго, каму, да каго.* Гл. бог.

**ЧЫМ БОГ ПАСЛАЎ.** Гл. бог.

**ШТО БОГ ПАСЛАЎ.** Гл. бог.

*ПАСЛАЦЬ* ● **ПАСЛ`АЦЬ К Ч`ОРТУ** *каго. Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Груба аблаяць, так, каб больш не прыставаў, не турбаваў і пад. **Сін**.: паслаць на тры літары *каго. Я паслаў яго к чорту. Ён не пакрыўдзіўся. Але аловак і запісную кніжку ў мяне адабраў.* Гарэцкі. *[Шугаеў:] Яны пагражаюць, што не будуць кааперавацца з намі. [Голас:] Пашліце іх к чорту, Барыс Пятровіч. Самі яны не лепшыя.* Крапіва.

**ПАСЛАЦЬ НА ТОЙ СВЕТ** *каго. Зак. да* **ПАСЫЛАЦЬ НА ТОЙ СВЕТ** *каго.*

**ПАСЛАЦЬ НА ТРЫ ЛІТАРЫ** *каго. Зак. да* **ПАСЫЛАЦЬ НА ТРЫ ЛІТАРЫ** *каго.*

*ПАСЛУГ* ● **ДА В`АШЫХ (ТВА`ІХ) ПАСЛ`УГ.** *Разм. З адценнем ветлівасці.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гатоў выканаць чыю-н. просьбу, быць у чыім-н. распараджэнні. *[Арсен Мікалаевіч] галантна павярнуўся, паправіў гальштук. —Дарагая Галіна Уладзіміраўна. Я заўсёды да вашых паслуг...* Шамякін. *Кожны з нас пры зручным выпадку казаў: «Мікалай Іванавіч, мне трэба з вамі пагаварыць», на што быў звычайны адказ: «Да тваіх паслуг. Заходзь у любы час».* Радкевіч.

*ПАСЛУХАЮЧЫ* ● **ДУШ`Ы (-`У) ПАСЛУХ`АЮЧЫ (ПАСЛУХ`ОЎВАЮЧЫ)** *рабіць. Акал. Разм.* Вельмі старанна, з усёй шчырасцю (рабіць што-н.).

**Сін**.: закасаўшы рукавы; у поце твару; у поце твару свайго;не пакладаючы рук; у поце твару; у поце твару свайго. **Ант**.: абы дзень адбыць; абы дзень да вечара (у 1 знач.); абы з рук; з плеч ды ў печ (у 2 знач.); з пятага на дзесятае (у 2 знач.); па канец рук; праз пятае ў дзесятае (у 2 знач.); пусці павалюся (у 2 знач.); спусціўшы рукавы; сяк-так (у 2 знач.); сяк-так накасяк <абы не па-людску>; цапам-лапам; цапу-лапу; цераз пень калоду (у 1 знач.); цяп ды ляп. *Мы ўтрох увесь час на работу хадзілі, рабілі душы паслухаючы, а як прыйшлося — нам вызначылі.. жыта па шэсць пудоў на душу, на цэлы год...* Баранавых. *Каб жа ўсё адно! З адным рабіць будзеш душы паслухаючы, а з другім — рабіць і мучыцца.* Янкоўскі. *І цяпер нешта пераварочваецца ў Бонуся ў грудзях, як успамінае ён тое жыццё, тыя галодныя і халодныя гады, калі трэба было рабіць душу паслухоўваючы, каб толькі хапіла на кавалак хлеба дзецям...* А.Жук.

*ПАСЛУХОЎВАЮЧЫ* • **ДУШУ ПАСЛУХОЎВАЮЧЫ.** Гл. паслухаючы.

*ПАСЛЯ* • **ПАСЛЯ ДОЖДЖЫКУ Ў ЧАЦВЕР.** Гл. дожджыку.

**ЯК ГРЫБЫ <ПАСЛЯ ДАЖДЖУ>.** Гл. грыбы.

*ПАСПЕЕШ* • **АГЛЯН`УЦЦА (АЗІРН`УЦЦА) НЕ ПАСП`ЕЕШ (-Ў, -ЛА, -ЛІ).** *У ролі першай часткі складанага ск.*; *часцей у абаг.-асаб. знач., радзей — пры дзейн. са знач. асобы. Разм.* Вельмі хутка, нечакана адбылося ці адбудзецца што-н. (тое, пра што гаворыцца ў другой частцы ск.). *Гэта ж трэба, аглянуцца не паспелі, а ўжо надвячорак, час скаціну карміць.* Правасуд. *Азірнуцца не паспееш, як састарымся.* Макаёнак. *[Капусцін] не паспеў азірнуцца, а яго вучань ужо стаў маёрам, удзельнікам вайны, узнагароджаны ордэнам.* Дамашэвіч.

**ПАСП`ЕЕШ З К`ОЗАМІ НА Т`ОРГ.** *Зак. Часцей у 2-й ас. адз. Вык. Разм.* Няма чаго спяшацца, не спяшайся. **Сін**.: дождж за карак не лье; за шыю не капае; не гарыць *у каго*; не капае *над кім, над чым*; не на пажар. *—Ах ты, верабей! — прабраў яго дзед. —Я ж казаў, што цяпер няможна. Яшчэ паспееш з козамі на торг.* Бядуля. *—Дзед, ды ты яшчэ нават не пачаў!.. —Паспееш, хлопча, з козамі на торг! — спакойна адказаў стары. —Сёння пад вечар пачну.* Брыль.*—Ой, Тэклечка, мусіць, позна ўжо... Загаварыліся... А мне яшчэ ўходжвацца трэба. Бывай хіба здарова! —Паспееш з козамі на торг... Зарупіла табе вельмі.* Місько. *—Я не выганяю. Толькі няёмка ад людзей, што ты дома сядзіш. —Паспею з козамі на торг, — кажа Лазіна і хаваецца ў святліцы.* Гардзей.

*ПАСПЕЎ* • **І (Н`АВАТ) `АХНУЦЬ (В`ОЙКНУЦЬ) НЕ ПАСП`ЕЎ (-ЛА, -ЛІ).** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн.-са знач. асобы. Разгубіўся ад нечаканасці таго, што адбылося. *Я па краі сектара абстрэлу зваліўся*

*з боку сонца. Яны [гітлераўскія лётчыкі] і ахнуць не паспелі.* Алешка. *І не паспелі паны ахнуць, як адзін з іх ляжаў мёртвым, а другі, звязаны конскімі папругамі, паслухмяна ішоў у штаб пад надзейнай вартай.* Крапіва. *Далей не толькі Чарнецкая, але і тысячы бабак нават войкнуць не паспелі, як з купала іхняй святыні іншаверцы выдралі праваслаўны крыж, устанавілі каталіцкі…* Карпюк. *Раптам Курыла Валун мякка абхапіў Лукерын стан і, не паспела яна войкнуць, пасадзіў, нібы пушынку, паперадзе сябе на каня.* Дайнека.

*ПАСТАВІЦЦА* ● **ПАСТАВІЦЦА ДАГАРЫ НАГАМІ.** *Зак. да* **СТАВІЦЦА ДАГАРЫ НАГАМІ.**

**ПАСТАВІЦЦА НА КАРТУ.** *Зак. да* **СТАВІЦЦА НА КАРТУ.**

**ПАСТАВІЦЦА НА КОН.** *Зак. да* **СТАВІЦЦА НА КОН.**

*ПАСТАВІЦЬ* ● **ПАСТАВІЦЬ БОГУ СВЕЧКУ.** *Зак. да* **СТАВІЦЬ БОГУ СВЕЧКУ**.

**ПАСТАВІЦЬ ВОЗ НАПЕРАДЗЕ КАНЯ.** *Зак. да* **СТАВІЦЬ ВОЗ НАПЕРАДЗЕ КАНЯ.**

**ПАСТАВІЦЬ ДА СЦЕНКІ** *каго. Зак. да* **СТАВІЦЬ ДА СЦЕНКІ** *каго.*

**ПАСТАВІЦЬ З ГАЛАВЫ НА НОГІ** *што. Зак. да* **СТАВІЦЬ З ГАЛАВЫ НА НОГІ** *што.*

**ПАСТАВІЦЬ ЗНАК РОЎНАСЦІ** *паміж кім, паміж чым. Зак. да* **СТАВІЦЬ ЗНАК РОЎНАСЦІ** *паміж кім, паміж чым.*

**ПАСТАВІЦЬ З НОГ НА ГАЛАВУ** *што. Зак. да* **СТАВІЦЬ З НОГ НА ГАЛАВУ** *што.*

**ПАСТАВІЦЬ КАЛОМ ВОЧЫ.** *Зак. да* **СТАВІЦЬ КАЛОМ ВОЧЫ.**

**ПАСТАВІЦЬ КРОПКІ НАД «І».** *Зак. да* **СТАВІЦЬ КРОПКІ НАД «І».**

**ПАСТАВІЦЬ КРОПКУ** *на чым, над чым, у чым. Зак. да* **СТАВІЦЬ КРОПКУ** *на кім, над чым, у чым.*

**ПАСТАВІЦЬ КРЫЖ** *на кім, на чым, над чым. Зак. да* **СТАВІЦЬ КРЫЖ** *на кім, на чым, над чым.*

**ПАСТАВІЦЬ МАЗГІ НА МЕСЦА** *каму. Зак. да* **СТАВІЦЬ МАЗГІ НА МЕСЦА** *каму.*

**ПАСТАВІЦЬ НА АДНУ ДОШКУ** *каго з кім, што з чым, каго і каго, што і што. Зак. да* **СТАВІЦЬ НА АДНУ ДОШКУ** *каго з кім, што з чым, каго і каго, што і што.*

**ПАСТАВІЦЬ НА ВІД** *каму. Зак. да* **СТАВІЦЬ НА ВІД** *каму.*

**ПАСТАВІЦЬ НА ВУШЫ** *каго, што. Зак. да* **СТАВІЦЬ НА ВУШЫ** *каго, што.*

**ПАСТАВІЦЬ НА ДЫВАН** *каго. Зак. да* **СТАВІЦЬ НА ДЫВАН** *каго.*

**ПАСТАВІЦЬ НА КАЛЕНІ** *каго, што. Зак. да* **СТАВІЦЬ НА КАЛЕНІ** *каго, што.*

**ПАСТАВІЦЬ НА КАРТУ** *што. Зак. да* **СТАВІЦЬ НА КАРТУ** *што.*

**ПАСТАВІЦЬ НА КОН** *што. Зак. да* **СТАВІЦЬ НА КОН** *што.*

**ПАСТАВІЦЬ НА КРЫЛО** *каго. Зак. да* **СТАВІЦЬ НА КРЫЛО** *каго.*

**ПАСТАВІЦЬ НА НОГІ.** *Зак. да* **СТАВІЦЬ НА НОГІ.**

**ПАСТ`АВІЦЬ НА ПАТ`ОК** *што. Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Зрабіць што-н. сістэматычным, паслядоўным, бесперапынным. *Так атрымалася, што «скасаванне» Быкава ў нашай краіне пастаўлена на паток. Быкаў усім недэмакратычным уладам быў няўгодны.* Барадулін. *У Пятра адабралі пашпарт і новенькі чырвоны дыплом. Гэта справа ў міліцыі была пастаўлена на паток. Такіх, як Пятро, тут было шмат, і таму дзяжурны паспяваў толькі складваць у сейф дакументы затрыманых.* «Крыніца».

**ПАСТАВІЦЬ НА РЭЙКІ** *якія, чаго што. Зак. да* **СТАВІЦЬ НА РЭЙКІ** *якія, чаго што.*

**ПАСТ`АВІЦЬ НА <СВА`Ё> МЕСЦА** *каго. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рэзкай заўвагай ці іншымі дзеяннямі прымусіць каго-н. паводзіць сябе інакш, даючы яму зразумець, чаго ён варты сапраўды. **Сін**.: абламаць рогі *каму*; падпілоўваць рогі *каму*; паказаць месца *каму*; скруціць рогі *каму. [Бондар:] Трэба, мусіць, іншыя меры ўжыць... [Анішчук:] Цікава, якія? [Бондар:] Паставіць цябе на сваё месца.* Гурскі. *І ўсё гэта — твая справа, таварыш Валатовіч! Я ведаю! І я гэта так не пакіну!.. Я пастаўлю на сваё месца і гэтага... дырэктара, і яшчэ каго-небудзь...* Шамякін. *Кавалер жаўтароты. Нялёгка, відаць, настаўнікам з такім вучнем. Трэба было паставіць яго на месца... Не лезь босы, дзе коней куюць...* Кудравец.

**ПАСТАВІЦЬ НА СВАІМ.** *Зак. да* **СТАВІЦЬ НА СВАІМ.**

**ПАСТАВІЦЬ ПАД УДАР** *каго, што. Зак. да* **ПАДСТАЎЛЯЦЬ ПАД УДАР** *каго, што.*

**ПАСТАВІЦЬ ПЫТАННЕ РУБАМ.** *Зак. да* **СТАВІЦЬ ПЫТАННЕ РУБАМ.**

**ПАСТАВІЦЬ СЯБЕ НА МЕСЦА** *чыё, каго. Зак. да* **СТАВІЦЬ СЯБЕ НА МЕСЦА** *чыё, каго.*

**ПАСТАВІЦЬ У АДЗІН РАД** *каго з кім. Зак. да* **СТАВІЦЬ У АДЗІН РАД** *каго з кім.*

**ПАСТАВІЦЬ УСЁ НА <СВАЁ> МЕСЦА.** *Зак. да* ставіць **УСЁ НА <СВАЁ> МЕСЦА.**

**ПАСТАВІЦЬ У ТУПІК** *каго. Зак. да* **СТАВІЦЬ У ТУПІК** *каго.*

*ПАСТАЎЛЕНА* ● **КРОПКА ПАСТАЎЛЕНА.** Гл. кропка.

*ПАСТАЎЛЕНЫ* ● **КРОПКІ НАД «І» ПАСТАЎЛЕНЫ** *дзе.* Гл. кропкі.

*ПАСТКУ* ● **ТРАПІЦЬ У ПАСТКУ.** *Зак. да* **ТРАПЛЯЦЬ У ПАСТКУ.**

*ПАСТРЫГЧЫ* ● **ПАСТРЫГЧЫ ВАЧАМІ.** *Зак. да* **СТРЫГЧЫ ВАЧАМІ.**

**ПАСТРЫГЧЫ ВУШАМІ.** *Зак. да* **СТРЫГЧЫ ВУШАМІ.**

**ПАСТРЫГЧЫ ПАД АДЗІН ГРАБЯНЕЦ** *каго. Зак. да* **СТРЫГЧЫ ПАД АДЗІН ГРАБЯНЕЦ** *каго.*

**ПАСТРЫГЧЫ ПАД СВОЙ ГРАБЯНЕЦ** *каго. Зак. да* **СТРЫГЧЫ ПАД СВОЙ ГРАБЯНЕЦ** *каго.*

*ПАСТУХОВА* ● **ПАСТУХОВА ГАННА.** Гл. ганна.

*ПАСУДЫ* ● **ХАДЗІЦЬ КАЛЯ ПАСУДЫ ЧЫСТА.** Гл. хадзіць.

*ПАСУШЫЦЬ* ● **ПАСУШ`ЫЦЬ З`УБЫ.** *Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пасмяяцца, панасміхацца з каго-н. **Сін.**: паскаліць зубы. *Гэта ж як трапіць [блокноцік] хлопцам у рукі, праходу не дадуць, засмяюць. Пасушыць зубы любяць.* Гаўрылкін. *От пахіхікаць, зубы пасушыць – на гэта яна [Лісавета] майстрыца.* Рубанаў.

*ПАСЦЕЛІ* ● **НА Б`ОЖАЙ ПАСЦ`ЕЛІ.** *Акал. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзеясл. *ляжаць.* У стане, блізкім да смерці. **Сін**.: між жыццём і смерцю; на мяжы жыцця і смерці; пры смерці. *Далей, ля сценкі, палочак стаіць. Думкі бацькоў там аж млелі: сын іх, Сымонка, тры дні ўжо ляжыць, тры дні на божай пасцелі...* Купала. *—Солтыса во паклікала... Зямлю ж хоча, каб на яе апісала. —На божай пасцелі лежачы, ці вам, цётка, пра зямлю дбаць.* Адамчык.

**2**. Перад смерцю (казаць, прасіць і пад.). **Сін**.: на смяротнай пасцелі. *[Народ] цвёрда трымаўся таго, што яму пераказалі на божай пасцелі дзяды і прадзеды, і не зацёр.. свайго нацыянальнага духу.* Купала.

**НА СМЯР`ОТНАЙ ПАСЦ`ЕЛІ.** *Акал. Разм.* Перад смерцю (казаць, прасіць, здагадвацца і пад.). **Сін**.: на божай пасцелі (у 2 знач.). *Адзіным шляхам да вызвалення з паднявольнага становішча з’яўляецца шлях рэвалюцыйнай барацьбы, Міхал смутна здагадваецца аб гэтым ужо на смяротнай пасцелі.* Крапіва.

*ПАСЫЛАЦЬ* ● **ПАСЫЛАЦЬ НА ТОЙ СВЕТ** *каго.* Гл. адпраўляць.

**ПАСЫЛ`АЦЬ НА ТР`Ы Л`ІТАРЫ** *каго. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Груба, абразліва лаяць каго-н., так, каб больш не прыставаў, не турбаваў і пад. **Сін.**: паслаць к чорту *каго. Нейкі час Выпаўзак стаяў збянтэжаны, – такога ён не чакаў. Каб гэты хлопец, удвая маладзейшы за яго, толькі зімой прыняты з кандыдатаў у партыю, пасылаў яго, парторга, на тры літары.* Быкаў. **ПАСЛАЦЬ НА ТРЫ ЛІТАРЫ** *каго. Зак.* *– Паспрабуй сам, камандзір, калі не верыш. Мо цябе і паслухае... – сказаў загадкава Шпакоўскі. – Мяне*

*дакладна пашле на тры літары.* Блакіт. *Дзе ты ў магазіне вызначыш, гаваркі будзе той суразмоўнік ці пашле цябе на тры літары, як пасылае таго, за каго нядаўна галасаваў?* «ЛіМ».

**Т`ОЛЬКІ ПА СМ`ЕРЦЬ ПАСЫЛ`АЦЬ** *каго. У безас. ужыв. Разм.* Цяжка дачакацца каго-н. *Дзе во цягаешся? Цябе толькі па смерць пасылаць.* Асіпенка. *Сасмаг недзе там Іван Іванавіч, прачакаўся малака. Мо кляне — пайшла і прапала. Па смерць мяне толькі пасылаць...* Місько. *—От я ўсыплю твайму Міколу. Яго толькі па смерць пасылаць. — Вунь, бяжыць, — радасна закрычаў Васіль.* Васілёнак.

*ПАСЫЛКАХ* ● **НА ПАС`ЫЛКАХ.** *Разм.* **1**. *Недапас. азн.* Для дробных паслуг, нескладаных даручэнняў. **Сін**.: на пабягушках (у 1 знач.). *Можа, хто і ўбачыць, што ён не чалавек на пасылках, а гаспадар, які сам сабе выбірае шлях.* Асіпенка. *Толькі адзін Слаўка не разумее ў гэтых справах. Ён тут хлопчык на пасылках: то ровень каму падасць, то вады прынясе.* Гардзей.

**2**. *у каго. Вык. і азн.* У поўным чыім-н. падпарадкаванні, у залежным становішчы (быць). **Сін**.: на пабягушках (у 2 знач.). *Галіна Майсееўна ўставіла: —Май на ўвазе: ты жанаты. Жонку добрую маеш. Яны — блазнюкі, а табою камандуюць! Ты ў іх на пасылках. Да чаго давядзе гэта?* Якавенка.

*ПАСЫПАЛІСЯ* ● **ІСКРЫ З ВАЧЭЙ ПАСЫПАЛІСЯ** *ў каго.* Гл. іскры.

*ПАСЫПАЦЬ* ● **ПАСЫП`АЦЬ ГАЛАВ`У П`ОПЕЛАМ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Глыбока смуткаваць, бедаваць з якой-н. прычыны. **Сін**.: кусаць <сабе> локці; кусаць сябе за локаць; ламаць <сабе> рукі; рваць на сабе валасы. *Я — ваш равеснік, і вы не заўважалі маёй прыхільнасці, Галіна Уладзіміраўна. Пацярпеўшы паражэнне, пасыпаю галаву попелам. І слаўлю пераможцу!* Шамякін. **ПАС`ЫПАЦЬ ГАЛАВУ П`ОПЕЛАМ.** *Зак. [Жора:] А хочаце, я пакаюся!.. Хочаце, я попелам галаву пасыплю?.. Хочаце, я вам прамову закачу, ды такую, што ў вас ад жаласці ў носе заказыча?..* Петрашкевіч. *Другі чалавек, на месцы Адамовіча, змяніўся б, павінаваціўся б, пасыпаў бы галаву попелам і перайшоў бы на іншыя пазіцыі.* Быкаў.

**ПАСЫПАЦЬ СОЛЬ НА <СВЕЖУЮ> РАНУ.** Гл. сыпаць.

*ПАСЫПЛЕЦЦА* ● **ПАРАХНЯ ПАСЫПЛЕЦЦА** *з каго.* Гл. парахня.

*ПАТАКІ* ● **ХАПІЦЬ ШЫЛАМ ПАТАКІ.** Гл. хапіць.

*ПАТАПІЦЬ* ● **ПАТАПІЦЬ У КРЫВІ** *што.* Гл. утапіць.

*ПАТАЧЫЦЬ* ● **ПАТАЧ`ЫЦЬ Л`ЯСЫ** <з *кім*>. *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пазаймацца пустымі размовамі,

папустасловіць. **Сін.**: памалоць языком; памянціць языком; патрапаць языком; пачасаць язык (у 1 знач.). *Мужчыны хітравата зірнулі адзін на аднаго, маўляў, бабы і ёсць бабы, хай паточаць трохі лясы, не трэба ім замінаць.* Кандрусевіч. *– Не вярнулася яшчэ? – Хто, Валерый Пятровіч? І адкуль? – ахвотна прымаючы яго тон, засмяялася Тамара, звыклая ўжо, што Руганоўскі па тэлефоне любіць з ёю лясы патачыць…* Гарэлікава.

*ПАТКНУЦЬ* ● **НЕ ПАТКНУЦЬ НОСА** *куды, да каго. Зак. да* не **ПАТЫКАЦЬ НОСА** *куды, да каго.*

**ПАТКНУЦЬ <СВОЙ> НОС** *куды.* Гл. **ТКНУЦЬ <СВОЙ> НОС** *куды.*

*ПАТОК* ● **ПАСТАВІЦЬ НА ПАТОК** *што.* Гл. паставіць.

*ПАТОП* ● **ХОЦЬ ПАТ`ОП.** *У безас. ужыв. Функц. не зам.* Не мае значэння для каго-н., не хвалюе, не кранае каго-н. **Сін.**: абы дзень да вечара *каму* (у 2 знач.); адзін хрэн *каму*; адзін чорт <*каму, для каго*>; адна трасца <*каму*>; адна халера; адно ліха; і гора мала *каму*; і не шум баравы *каму*; ні горача ні холадна *каму ад чаго*; усё адно (у 2 знач.); усё роўна (у 4 знач.); хоць бы хны (у 3 знач.); хоць бы што (у 3 знач.); хоць воўк траву еш; хоць трава не расці <*каму*>; што з гусі вада *з каго, каму*; як з гусака вада *з каго. —Нам з табой нядоўга асталося хадзіць. А закаханыя месца знойдуць, не турбуйся. Свет вялікі. —Значыцца, пасля нас хоць патоп? Так?* Шамякін. *Мне трэба яшчэ дацягнуць да ранку. А там — хоць патоп.* Дамашэвіч. *Шапне чынуша, сам як ёсць халоп: «На трон — сягоння. Заўтра — хоць патоп...»* Л.Галубовіч. *[Антушкову] было важна закрыць па ўсіх паказчыках год, а там хоць патоп.* Супрунчук.

*ПАТОЎ* ● **ВЫЦІСКАЦЬ СЕМ ПАТОЎ** *з каго.* Гл. выціскаць.

**СЕМ ПАТОЎ ВЫЙШЛА** *з каго.* Гл. выйшла.

**СЕМ ПАТОЎ ВЫЛІЦЬ.** Гл. выліць.

**СЕМ ПАТОЎ САГНАЦЬ.** Гл. сагнаць.

*ПАТРАПАЦЬ* ● **ПАТРАПАЦЬ НЕРВЫ** *каму.* Гл. папсаваць.

**ПАТРАП`АЦЬ ЯЗЫК`ОМ.** *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пазаймацца пустымі размовамі, папустасловіць. **Сін.:** памалоць языком; памянціць языком; патачыць лясы <*з кім*>; пачасаць язык (у 1 знач.). *[Зёлкін:] Напрыклад, наша цёця Каця вельмі любіць языком патрапаць.* Крапіва. *Знаходзілі некаторыя з тых, што языком ахвочы патрапаць ды розум маюць спрытны, дапытлівы, розныя здагадкі, але нічога путнага і яны прыдумаць не маглі.* Шынклер.

*ПАТРАПІЦЬ* ● **ПАТРАПІЦЬ У <САМЫ> ЯБЛЫЧАК.** Гл. пацэліць.

**ПАТРАПІЦЬ У ТОН** *каму.* Гл. трапляць.

*ПАТРАПЛЯЦЬ* ● **ПАТРАПЛЯЦЬ У ТОН** *каму.* Гл. трапляць.

*ПАТРУБІЦЬ* ● **ПАТРУБІЦЬ У КУЛАК.** *Зак. да* **ТРУБІЦЬ У КУЛАК.**

*ПАТРЫМАЦЬ* ● **ПАТРЫМАЦЬ ЯЗЫК ЗА ЗУБАМІ.** *Зак. да* **ТРЫМАЦЬ ЯЗЫК ЗА ЗУБАМІ.**

*ПАТРЭБЕ* ● **ПА ПАТР`ЭБЕ** *выходзіць, сходзіць* і пад. *Акал. Праст.* Мачыцца, спаражняцца. **Сін.**: да ветру; на двор. *Нават уночы, калі, здавалася, Бус выходзіў на двор па патрэбе, яна прачыналася і нецярпліва чакала, калі ён зноў вернецца ў хату і ляжа на палацях.* Сіпакоў. *– Вось ён! – торкнула пальцам на ветурача старая. – Трымайце! Лавіце! Гэта ж я па патрэбе за вугал пакуль схадзіла, ён і залез, гад. Арыштоўвайце, таварыш участковы! Бярыце яго!* В.Ткачоў.

*ПАТРЭБНА* ● **ДАЛЁКА ХАДЗІЦЬ НЕ ПАТРЭБНА** *за чым.* Гл. трэба.

*ПАТРЭСЦІ* ● **ПАТРЭСЦІ КІШЭНЬ.** *Зак. да* **ТРЭСЦІ КІШЭНЬ.**

*ПАТУХЛА* ● **ЗОРКА ПАТУХЛА** *чыя.* Гл. зорка.

*ПАТЫКАЦЬ* ● **НЕ ПАТЫК`АЦЬ Н`ОСА** *куды, да каго. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не прыходзіць куды-н., не паяўляцца дзе-н. **Сін**.: на парог не ступаць <да каго>; не казаць носа *куды,* не паказваць вачэй *куды.* **Ант**.: высоўваць нос *куды, адкуль. Вінцэнты больш не патыкаў носа на Бушмараў хутар.* Чорны. **НЕ ПАТКНУЦЬ НОСА** *куды, да каго. Зак. Можа, хто з нашых затрымае, дык скажы, што ў Гаўкуна быў, і цябе ніхто пальцам не кране. Тут не тое, што ў вашых Зенькавічах. Да нас партызаны і носа не паткнуць.* Шушкевіч.

*ПАТЫЛІЦУ* ● **ДЫХАЦЬ У ПАТЫЛІЦУ** *каму.* Гл. дыхаць.

**ПАЧУХАЦЬ ПАТЫЛІЦУ.** Гл. пачухаць.

**ЧУХАЦЬ ПАТЫЛІЦУ.** Гл. чухаць.

*ПАТЭЛЬНІ* ● **ЯК УЮН НА <ГАРАЧАЙ> ПАТЭЛЬНІ.** Гл. уюн.

*ПАЎАБАРОТУ* ● **ЗАВОДЗІЦЦА З ПАЎАБАРОТУ.** Гл. заводзіцца.

*ПАЎВЯРШКА* ● **АД ГАРШК`А ПАЎВЯРШК`А.** *Вык. і азн. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі нізкі; малы ростам. **Сін**.: ад зямлі не адрос; аршын з шапкай; жабе па калена; з вузел; кату па пяту; пад стол пяшком ходзіць. **Ант**: з каломенскую вярсту; хоць <ты> сабак вешай *на кім. Рыгорка ашчэрыўся, зафыркаў, вызверыўшыся на Якіма. —Бач ты, ад гаршка паўвяршка, а ўжо вучыць... Вучоны!* Дуброўскі. *Надта вялікі ты ўжо стаў! Ад гаршка паўвяршка!..* Рылько.

*ПАЎДАРОЗЕ* ● **НА ПАЎДАР`ОЗЕ** спыняцца (спыніцца). *Акал. Разм.* Не закончыўшы распачатай справы, не дасягнуўшы мэты. *—Правільна, Юрка, — сказаў старшыня калгаса. —Не будзем спыняцца на паўдарозе праз нейкую там дробязь, што спрабуе нам шкодзіць.* Курто. *[Бондар:] Ты з сваім вопытным полем зрабіў добрую справу. Але ты спыніўся на паўдарозе і не пайшоў далей.* Гурскі.

*ПАЎЗУЧАЯ* ● **ГАДЗІНА ПАЎЗУЧАЯ.** Гл. гадзіна.

*ПАЎЗУЧЫ* ● **ГАД ПАЎЗУЧЫ.** Гл. гад.

*ПАЎЛІНАВЫХ* ● **ВАРОНА Ў ПАЎЛІНАВЫХ ПЁРАХ.** Гл варона.

*ПАЎСЛОВА* ● **З ПАЎСЛ`ОВА** разумець (зразумець). *Акал. Разм.* Адразу ж, з намёку, з першых слоў. *Яны разумеюць адна другую з паўслова, гэтыя дзве маленькія суседкі, як іх празвалі...* Лынькоў. *[Максім] зноў засмяяўся, радуючыся, што брыгадзір разумее яго з паўслова.* Кудравец. *Марына Пятроўна ўмела зразумець чалавека з паўслова.* Васілевіч.

**НА ПАЎСЛ`ОВА.** *Акал. Разм.* Для кароткай размовы, паведамлення і пад. (клікаць, сустракацца і пад.). **Сін**.: на адно слова; на <адну> мінуту (у 2 знач.); на два словы; на пару слоў. *[Арцём:] Не ў настроі. Сланяецца, змрачнейшая ад хмар... [Каліноўскі:] Як нам сустрэцца з ёй?.. Хоць на паўслова.* Куляшоў.

**НІ ПАЎСЛ`ОВА.** *Акал. Разм.* Абсалютна нічога (не гаварыць, не гаворыцца пра што-н.). **Сін**.: ні слова (у 2 знач.); ні слова ні паўслова. *Пападзюк.. апусціў вочы і папярэдзіў: —Толькі ж ты, глядзі, каб аб гэтым нікому не пікнуў ні паўслова.* Машара. *У гісторыі пералічваюцца ўсе войны, якія вялі нашы цары супроць чужаземцаў. І ні паўслова няма пра вайну, якую вёў мой дзед і яго паплечнікі супроць паноў і самога цара.* Якімовіч.

**НІ СЛОВА НІ ПАЎСЛОВА.** Гл. слова.

*ПАЎСЛОВЕ* ● **НА ПАЎСЛ`ОВЕ.** *Акал. Разм.* Не дагаварыўшы пачатага (замоўкнуць, змоўкнуць, спыніцца і пад.) або не даслухаўшы суразмоўніка (перапыніць, абарваць і пад.). *Часам ён [Васіль Пятровіч] замаўкаў на паўслове, рабіўся глухі, і ў яго вачах адкрывалася пустата.* Карпаў. *Начштаба сціснуў вусны, замоўк на паўслове, нібы ў яго адняло мову, і рэзкім жэстам паказаў у бок дарогі.* Дамашэвіч. *—А можа, гэта няпраўда, — перарваў на паўслове Колю Крамаровіч.* Чорны. *[Лісаветка] паэвала Грышку абедаць, абарваўшы яго на паўслове.* Рубанаў.

*ПАЎСМЕРЦІ* ● **ДА ПАЎСМ`ЕРЦІ** збіць, перапалохаць, загрызці і пад. *Акал. Разм.* Вельмі моцна. **Сін**.: да жывога (у 2 знач.): на горкі яблык; на порхаўку; як сідараву казу. *[Лявон] яшчэ не ведаў, што яго швагра*

*Міхаля Лабажэвіча, Уладзіка і яшчэ некалькіх хлопцаў, што заступіліся за іх, збілі да паўсмерці, як і яго самога...* Дамашэвіч. *[Трахім:] Пакінь, кумка, пакінь! Ці табе справіцца з гэтай язычніцай? Яна ж мяне ўжо да паўсмерці загрызла.* Купала. *Нарэшце загрукалі дзверы. Да паўсмерці перапалоханая Таццяна Якавенка дрыжачымі рукамі зняла завалу.* Новікаў.

*ПАЎСТАВАЦЬ* ● **ПАЎСТАВ`АЦЬ (УСТАВ`АЦЬ) П`ЕРАД ВАЧ`АМІ (-`ЫМА)** *чыімі, у каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Выразна, зрокава ўзнікаць у свядомасці. **Сін**.: стаяць перад вачамі *ў каго, чыімі,* стаяць у вачах *чыіх, каго, каму*; стаяць уваччу *каму, перад кім, у каго. У казарме, на двары за працай, Андрэй пачынаў асцярожную гутарку аб вайне з салдатамі знаёмымі, а перад вачыма ў гэты час паўставаў вобраз Ліды, бадзёры́ яго.* Галавач. *Яшчэ ў летнюю спёку перад іх вачамі ўставалі аснежаныя вежы Крамля, залітыя электрычным святлом залы.* Крапіва. *Нешта знаёмае, даўно забытае пачынае варушыцца ў памяці. Яно снуецца, мігціць і ў нейкае імгненне раптам выясніваецца і жывым прывідам паўстае перад вачамі.* Палтаран. **ПАЎСТАЦЬ (УСТАЦЬ) ПЕРАД ВАЧАМІ (-ЫМА)** *чыімі, у каго. Зак. У яго [Леаніда] перад вачыма паўстала Настуля.* Кузьмянкоў.

*ПАЎСТАЦЬ* ● **ПАЎСТАЦЬ ПЕРАД ВАЧАМІ** *чыімі, у каго. Зак. да* **ПАЎСТАВАЦЬ ПЕРАД ВАЧАМІ** *чыімі, у каго.*

*ПАЎТАРА* ● **НІ ДВА НІ ПАЎТАРА.** Гл. два.

**ПАЎТАР`А ЛЮДСК`ОГА.** *Акал. Разм.* Горш, як трэба (рабіць што-н., даставацца, даводзіцца каму-н. і пад.). **Сін**.: з рук вон (у 1 знач.); ні к чорту (у 2 знач.). *[Данілка:] А ўсё-такі скажы, мамка, праўду: у гэтай скрыпцы лепшы голас, як у той, што раней у мяне была? [Марыля:] На той гудзеў, як авадзень, і на гэтай таксама выводзіш нейкае нешта паўтара людскога.* Купала. *А божа ж мой, якая далеч! Няўжо не мог папрасіць бліжэй? Ці з нашымі сіламі цягацца: так далёка. Людзям заўсёды па-людску, а нам вечна паўтара людскога.* Вітановіч.

*ПАЎТАРЭННЕ* ● **ПАЎТАР`ЭННЕ ПР`ОЙДЗЕНАГА**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Вяртанне да таго, што ўжо чулася, бачылася, адбывалася і г.д. *Нерушы тут [у нядаўна выдадзеным зборніку прыказак] вельмі мала. Па сутнасці, гэта «паўтарэнне пройдзенага».* «ЛіМ». *Гэта яшчэ адзін крок да стварэння гарантый, якія пазбавяць нас ад «паўтарэння пройдзенага».* «Маладосць». *Уся справа ў тым, што наўрад ці будзе створана што-небудзь прынцыпова новае. Хутчэй за ўсё, адбудзецца паўтарэнне*

*пройдзенага.* «Настаўн. газ.»

*ПАХАДЗІЛА* ● **ПАХАДЗІЛА РУКА** *чыя, каго.* Гл. рука.

*ПАХІ* ● **ЛАХІ ПАД ПАХІ.** Гл. лахі.

**ЛАХІ ПАД ПАХІ** *браць.* Гл. лахі.

*ПАХНЕ* ● **І НЕ П`АХНЕ (НЕ П`АХЛА)** *чым. У безас. ужыв. Разм.* Няма ніякіх адзнак, прыкмет з’яўлення ці надыходу чаго-н. *Што і казаць, парадкам там і не пахне.* «Вожык». *Калі заглянуць у глыбейшую гісторыю, нават не ў пачатак нашага веку, якi на памяці старых людзей, а недзе ў другую палову васемнаццатага, дык Лісанню, самой вёскай, яшчэ і не пахла.* Карамазаў. *Хоць была ўжо сярэдзіна студзеня, сярэдзіна зімы, але зімою тут нават і не пахла.* Сіпакоў.

**П`АХНЕ (П`АХЛА) П`ОРАХАМ <У ПАВ`ЕТРЫ>.** *У безас. ужыв. Функц. не зам.* Пагражае вайна, набліжаюцца небяспечныя падзеі. *[Перагуд:] Калі я думаю пра вайну, дык аднаго баюся больш за ўсё — каб мне страшна не было... [Наталля:] А порахам пахне. У мяне такое адчуванне, як быццам у летні дзень перад навальніцай.* Крапіва. *Самае горшае і небяспечнае было іншае: у паветры пахла порахам. У Еўропе даўно бушавала вайна.* С.Александровіч. *На свеце станавілася ўсё больш трывожна У паветры яўна пахла порахам.* Міско.

**П`АХНЕ (П`АХЛА) СМ`АЖАНЫМ** *дзе. У безас. ужыв. Разм.* Прадбачыцца магчымасць пажывіцца, прадбачыцца лёгкая здабыча, нажыва. *Як толькі загаварылі аб беларусізацыі, ён [Лукавіцын] зразу змікіціў, што тут смажаным пахне, і стаў не толькі проста беларусам, але нават адным з выдатных.* Крапіва. *Дзе пахне смажаным, глядзі — там і хапуга: цаляе на бяспройгрышны білет.* Бачыла. «*Чаму, не! — падумаў Гарбацэвіч. — Чаму не лезці да мяне ў радню! Мудрыя ж, чуюць, дзе смажаным пахне...*» Далідовіч.

**П`АХНЕ (П`АХЛА) СМ`АЛЕНЫМ.** *У безас. ужыв. Разм.* Паказвае на магчымасць небяспекі, пагражае непрыемнасцю каму-н. **Сін**.: хмары згушчаюцца *над кім, над чым*; хмары згушчаюцца над галавой *чыёй, каго.* **Ант**.: хмары рассейваюцца *якія, чаго*; хмары рассейваюцца над галавой *чыёй, каго. [Гудзееў:] Гэту справу нельга дапускаць да райкома. Я спецыяльна прыехаў, каб патушыць, а ты... Цяпер ад нас абодвух пахне смаленым, а ты не разумееш.* Макаёнак. *Былі і такія, што прасіліся ў партызаны — чулі, што пахне смаленым, што пачалося вызваленне Беларусі, дзе ж дзецца?* Місько.

*ПАХНУЦЬ* ● **ЗЯМЛ`ЁЙ П`АХНУЦЬ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дажываць сваё жыццё, быць блізкім да смерці. Звычайна пра хворага ці старога чалавека. **Сін**.: адной нагой стаяць у

магіле; глядзець на той свет; глядзець у магілу; дыхаць на ладан (у 1 знач.); з кірмашу ехаць; ледзь дыхаць (у 1 знач.). **Ант**.: стаяць напроці свайго веку. *Жонка багата старэйшая за яго, а яшчэ нішто сабе, лёгкая. А ён маладзейшы, а ўжо зямлёю пахне.* Янкоўскі. *Дык і ваша Максімаўна... Ад яе ўжо зямлёй пахне, а яна канавы паабкошвае, карове ношкамі нацягае, а тады яшчэ і малако здае калгасу.* Кусянкоў.

*ПАХОДАМ* ● **З ПАХ`ОДАМ.** *Акал. Разм. Ужыв. пасля лічэбн. (пры прыблізным вызначэнні велічыні, даўжыні, колькасці чаго-н.).* З невялікім перавышэннем. **Сін**.: з гакам (у 1 знач.); з капейкамі; з лішкам (у 1 знач.); з лішнім; з хвосцікам. *—А мы ж хацелі, каб вы яблык нам па якому кілаграму прадалі. — Наце, бярыце! — падала нам цётка па чатыры залатабокія антоны. —Тут мо яшчэ і з паходам будзе.* Сабаленка. *Вера.. прынесла з пограба ўчарашні дзённы і вячэрні ўдой, зліла разам у бітон і сказала мужу: —Адзінаццаць літраў з паходам на меру.* Пальчэўскі. *Сваю «Падчарыцу» — друкаваны аркуш з паходам — я напісала за ноч.* Васілевіч.

*ПАХУ* ● **КАБ <І> ПАХУ НЕ БЫЛО** *чыйго <дзе>*. Гл. было.

*ПАЦАЛАВАЦЬ* ● **ПАЦАЛАВ`АЦЬ ЗАМ`ОК.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не дабіцца чаго-н., не застаўшы каго-н. дома. **Сін**.: пацалаваць клямку; пацалаваць у прабой. *[Сямён:] Зранку пайку зграбаў, а тут баба пагнала па хлеб. Ды чорта з два: пацалаваў замок. Кажуць, прывязуць пасля абеду.* Карпаў.

**ПАЦАЛАВ`АЦЬ КЛ`ЯМКУ**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не дабіцца чаго-н., не застаўшы каго-н. дома. **Сін.**: пацалаваць замок; пацалаваць у прабой. *Але брама замкнёная. Пацалаваўшы клямку, развітваемся.* Астравец. *Пагледзіцё, што пацалуеце клямку і прыбежыцё назад*. Юрчанка.

**ПАЦАЛАВ`АЦЬ У ПРАБ`ОЙ.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не дабіцца чаго-н., не застаўшы каго-н. дома. **Сін**.: пацалаваць клямку; пацалаваць замок. *Па дарозе я непакоіўся, ці дома Толік. Хутчэй за ўсё ён павінен адлежвацца ў сваёй кватэры, але мог і выйсці. Пацалаваць жа ў прабой было б дужа няёмка пры Касэнку, які згадзіўся на гэтую сяброўскую бяседу.* Радкевіч. *Хрысціна начапіла замок на дзверы, а ключ паклала ў кішэню ватоўкі. Хай цяпер Яўхім пацалуе ў прабой!..* Асіпенка.

*ПАЦАЛУНАК* ● **ПАЦАЛ`УНАК `ЮДЫ.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Пагард.* Здрадніцкі ўчынак пад маскай добразычлівасці, дружбы. **Сін**.: юдаў пацалунак. *[Генадзь:] Пеpажыву! Затое шлях мой праведны будуць, як і раней, асвятляць Вера (цалуе*

*ў шчаку), Надзея (цалуе) і Любоў (цалуе)... [Люба:] Пацалунак Юды. Максіму і Зойцы трэба грошы, не трыццаць манет серабром, а дзве тысячы новымі.* Петрашкевіч.

**`ЮДАЎ ПАЦАЛ`УНАК.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Пагард.* Здрадніцкі ўчынак пад маскай добразычлівасці, дружбы. **Сін**.: пацалунак юды. *Рыбак.. усё яшчэ думае пра ўцёкі. «Даруй, брат!» — гучыць звернутае да Сотнікава, юдавым пацалункам гучыць.* Адамовіч. *Назаўтра Юсупаў зноў наведаў Распуціна. —Я па вас, айцец. Ірэн чакае... — і абняў Распуціна, нават пацалаваў. Распуцін насцярожыўся, спытаў: —Не юдаў пацалунак, а? — І сам жа насмешліва адказаў: —Спадзяюся, што не.* Якутаў.

*ПАЦЕРЫ* ● **ГАВАРЫ З ЧОРТАМ ПАЦЕРЫ!** Гл. гавары.

*ПАЦЕХА* ● **ПАЦ`ЕХА З ПУСТ`ОГА М`ЕХА.** *Мн. не ўжыв. Часцей у знач. вык. Разм. Неадабр.* Штосьці неверагоднае, незвычайнае. **Сін**.: дзівосы на калёсах; цуд у рэшаце; цырк на дроце. *—Маладыя ж, самадзейнасць арганізуйце. —Хіба што з вамі ды з маім бацькам. Пацеха з пустога меха. Кіраўніка няма... Ды і адышло гэта, самадзейнасць. Цяпер прафесійныя артысты ў раённы Дом культуры кожны тыдзень прыязджаюць. Лепш наведвацца туды.* Саламаха.

**ПАЦЕХУ ● З ЛАСКІ НА ПАЦЕХУ.** Гл. ласкі.

*ПАЦЁМКІНСКАЯ* ● **ПАЦЁМКІНСКАЯ ВЁСКА.** Гл. вёска.

*ПАЦІРАННЕ* ● **ПАЦІР`АННЕ Р`УК.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл ск. Разм.* Вялікае задавальненне ад поспеху ў якой-н. справе. *Збіральніцтва музея, гандаль навакол нацыянальнай спадчыны, паціранне рук ад набытага, выцыганенага, выманенага, вельмі ж яно нагадвае Купалу малабяседскага крамніка Брошку з яго паціраннем рук ад хоць маленькага гешэфту.* Лойка.

*ПАЦІРАЦЬ* ● **ПАЦІР`АЦЬ Р`УКІ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адчуваць, перажываць вялікае задавальненне ад поспеху ў якой-н. справе. *[Кандрат:] А вам... зямлі не дадзім, не пацірайце рук.* Лобан. *Пан Вячорык загадзя паціраў рукі, спадзеючыся на ўзнагароду.* Машара. *Валошка даўно гнаў бы хапугу з леснікоў, калі б не Зімавец. І вось цяпер паціраў рукі: «Добра, што сам убачыў як след свайго Рысева. Хоць і я, ляснічы, буду ў цябе вінаваты, але — добра...»* Карамазаў.

*ПАЦІСКАЦЬ* ● **ПАЦІСК`АЦЬ ПЛЯЧ`АМІ (-`ЫМА).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выказваць здзіўленне, неразуменне, няведанне і пад. *—Чаго яшчэ хочаш? — паціскалі плячамі некаторыя з адміністратараў на доказы канструктара.* «Звязда». *Цяпер, калі*

*Мількавец так заартачыўся, дасужы селькор толькі паціскае плячыма: паганага пра лесніка не чуў, сеў і напісаў...* Капусцін.

**ПАЦІСНУЦЬ ПЛЯЧАМІ (-ЫМА).** *Зак. Мы толькі плячыма паціснулі. Што ж, хай ён [Гнат] цяпер, калі здолее дабіцца, мучыць іншых і панявярае чужымі — тут мы нічога не маглі зрабіць.* Караткевіч.

*ПАЦІСНУЦЬ* ● **ПАЦІСНУЦЬ ПЛЯЧАМІ.** *Зак. да* **ПАЦІСКАЦЬ ПЛЯЧАМІ**.

*ПАЦУК* ● **КАНТ`ОРСКІ ПАЦ`УК.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Канцылярскі чыноўнік, бяздушны бюракрат, фармаліст. **Сін**.: крапіўнае семя; папяровая душа; чарнільная душа. *Я хачу, каб ніхто не гаварыў пра бухгалтэрыю, што мы блытанікі, канторскія пацукі ці чарнільныя душы.* Скрыган.

*ПАЦЭЛІЦЬ* ● **ПАЦ`ЭЛІЦЬ (ПАТР`АПІЦЬ, ТР`АПІЦЬ) У <С`АМЫ> `ЯБЛЫЧАК**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Сказаць ці зрабіць менавіта тое, што патрэбна. **Сін.**: пападаць у цэль; пацэліць у дзесятку; як у сук уляпіў. **Ант.**: не туды гнуць (у 2 знач.); пападаць пальцам у неба. – *Такая вялікая ўжо ўнучка?.. Вас самую яшчэ хоць замуж аддаваць. – Мабыць, пацэліў у самы яблычак, бо цётка ажно павярнулася да мяне...* Міська. – *Больш зручна будзе зваць вас проста Янусам, – і як высветлілася ўжо нашмат пазней, з гэтай сваёй з'едлівасцю Надзя трапіла ў яблычак. У яго было мноства твараў, і ўсе непадобныя, сапраўдныя.* Казько. *Як у яблычак пацэліў Дзёмін з Канаплянкі – адрываліся сяляне ад хат, і першы з іх – «снайпер» Ціма Плішка.* Пашкевіч. *Кузьма за свой доўгі век добра вывучыў жаночы характар, таму сцяміў, што патрапіў у самы яблычак.* Давідовіч. *Пацэлілі ў яблычак: пачаўся катэджны бум, і паўдзесятка пасрэдных архітэктараў зараблялі добрыя грошы.* Шамякін.

**ПАЦ`ЭЛІЦЬ У ДЗЕС`ЯТКУ.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Сказаць ці зрабіць іменна тое, што патрэбна. **Сін**:: пападаць у цэль; пацэліць у <самы> яблычак; як у сук уляпіў. **Ант**.: не туды гнуць (у 2 знач.); пападаць пальцам у неба. *Шугачоў убачыў, як у Макаеда пабялела лысіна, і ад задавальнення ажно каўзануўся на крэсле — пацэліў, як кажуць, у дзесятку.* Шамякін. *Значыць, па дурасці зноў я пацэліў прама ў дзесятку... Адстаўкай усё пахне...* Мальдзіс.

*ПАЦЯГНУЛА* ● **ПАЦЯГН`УЛА ЗА ЯЗ`ЫК** *каго. У безас. ужыв. Разм.* Знянацку захацелася каму-н. выказацца, запытаць пра што-н. **Сін**.: чорт пацягнуў за язык *каго. Пацягнула цябе за язык. Дык і выслухоўвай натацыю, як вучань, што правініўся.* Хадкевіч. *Пацягнула мяне за язык... Але што я мог адказаць, калі ён, парасё, папракнуў, чаму я ўсё жыццё сяджу на жыллі? Балбатун.* Шамякін. *Косціку было шкода, што Валодзя перажывае, адчуваў нібыта і сваю*

*віну. Пацягнула яго за язык.* Арабей.

*ПАЦЯГНУЎ* ● **ЧОРТ ПАЦЯГНУЎ ЗА ЯЗЫК** *каго.* Гл. чорт.

*ПАЦЯКЛА* ● **АЖ СЛІНА ПАЦЯКЛА** *ў каго.* Гл. сліна.

*ПАЦЯКЛІ* ● **СЛІНКІ ПАЦЯКЛІ** *ў каго.* Гл. слінка.

*ПАЦЯМНЕЛА* ● **ПАЦЯМНЕЛА Ў ВАЧАХ** *у каго, каго.* Гл. цямнее.

*ПАЧАСАЦЬ* ● **ПАЧАС`АЦЬ ЯЗЫК`ОМ.** *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Пагаварыць упустую, папустасловіць. **Сін.:** памалоць языком; памянціць языком; патачыць лясы <*з кім*>; патрапаць языком. *[Яўхім] жа і не думаў крыўдзіць яе [Хадоську], проста язык з нуды пачасаць хацелася.* Мележ. *Ён [Сталін] сустрэўся з Мясніковым, супакоіў яго («Няхай збяруцца, пачэшуць языкі, пагуляюць у рэспубліку, ва ўрад, але ўладу будзеш трымаць ты»), дамовіўся, што і як рабіць далей.* Далідовіч.

**2.** Паплёткарыць, абгаварыць каго-н. **Сін.:** папаласкаць косці (костачкі). *Любяць нашы хлопцы языкі пачасаць, напалі на новага хлопца – высмяхаюцца.* Шынклер. *А ты, Мікола, не звяртай увагі на іхнія кепікі. Ім зараз няма чаго рабіць, вось і хочацца пачасаць языкі.* Хведаровіч. *Праўда, успаміналі найбольш тады, калі была ахвота пачасаць языкі.* Кудравец.

*ПАЧАТАК* ● **ПАКЛАСЦІ ПАЧАТАК** *чаму.* Гл. пакласці.

**ПАЧ`АТАК КАНЦ`А** *чаго, чый. Мн. не ўжыв. Функц. не зам. У ролі розных чл. ск.* Першыя адзнакі завяршэння, заняпаду, знікнення, разбурэння чаго-н. – *Такі быў мой пачатак канца, – уздыхае Лук'янаў. – Пачатак канца! – паўтараю я і думаю, які недарэчна-злавесны сэнс ў гэтых двух такіх звычайных упаасобку словах.* Быкаў. *Вялікі грэх забыць мову сваіх продкаў. Гэта пачатак канца сваёй нацыі, дзяржавы і краіны.* «Наша сл.» *Знаеце, у паветры ўжо насіцца пачатак канца вайны. Усе народы з вялікай гарачнасцю гатовяцца да ўсясветнага суда чалавецтва.* Рублеўская.

*ПАЧУХАЦЬ* ● **ПАЧ`УХАЦЬ ПАТ`ЫЛІЦУ.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Паклапаціцца, падумаць, як выйсці з пэўнай сітуацыі. *Прагледзеўшы вывады допісу, Прыстром лагодна ацаніў яго змест: «Разумны чалавек піша, хай і ў кіраўніцтве пачухаюць патыліцу...».* Шынклер. *Натварыў каторы – няхай сам і расхлёбвае, пачухае патыліцу, як у сабе годнасць чалавечую захаваць.* Капусцін.

*ПАЧУЦЦЁ* ● **ПАЧУЦЦ`Ё (АДЧУВ`АННЕ) Л`ОКЦЯ.** *Мн. не ўжыв. Дзейн. ці дап. Функц. не зам.* Узаемная падтрымка. *Пачуццё локця, добразычлівасць вельмі характэрныя для нашага калектыву.*

«Настаўн. газ.» *Паміж гэтымі людзьмі, якія яшчэ пару тыдняў назад адзін аднаго і ў вочы не бачылі, цяпер — зладжанасць, «пачуццё локця».* Карпюк. *Чаго вы не падзялілі? Гэта не па-суседску. На вайне вялікае значэнне мае адчуванне локця.* Гурскі.

**Ш`ОСТАЕ ПАЧУЦЦ`Ё.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Здольнасць інтуітыўна ўспрымаць, прадбачыць, угадваць што-н. *Ён смутна, шостым пачуццём, як заўжды пазнаеш знаёмае, пазнаў словы, мабыць, першага прыпеву...* Караткевіч. *Я ганарыўся, радаваўся, што шостае пачуццё мяне не падвяло і што маё каханне з першага погляду мае пад сабой рэальную, урадлівую глебу.* Міхно. *Нейкім шостым пачуццём акцёр на сцэне, а рэжысёр альбо драматург, седзячы ў зале, тонка рэагуюць: вунь... зірні туды...* Бур'ян. *Сабака, дзякуючы свайму шостаму пачуццю, загадзя ведаў аб лёсе свайго гаспадара і прыбег на апошняе з ім развітанне...* Ф.Аляхновіч.

*ПАЧЫМ* ● **ПАКАЗАЦЬ ПАЧЫМ ФУНТ ЛІХА** *каму.* Гл. паказаць.

**ПАЧЫМ ФУНТ ЛІХА.** Гл. фунт.

*ПАЧЫЦЬ* ● **ПАЧ`ЫЦЬ (СПАЧ`ЫЦЬ) У Б`ОЗЕ.** *Устар. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Памерці. **Сін**.: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; адыходзіць (ісці) у лепшы свет; ажаніцца з <сырою> зямлёй; выпроствацьногі; выцягваць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць <*каму*> (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); канькі адкідаць; лажыцца ў магілу; на паповы сані збірацца; пайсці ў магілу; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.), трапіць да абрама на піва. — *Гімназісты славутай нашай гімназіі, — ціхім і прачулым голасам, які аж дрыжаў ад хвалявання, пачаў Гедымін. —Вялікае гора напаткала нашу краіну. У бозе пачыў наш імператар, наш палкаводзец, гаспадар рускай зямлі, Мікалай Паўлавіч...* Караткевіч. *[Манах] пасля жалобнага абраду тачыў елей смірэнства, слёзы аб дэспаце, «спачыўшым у бозе».* Дзяргай. *[На марскіх сігнальных сцяжках і гербах] былі накрэслены ініцыялы «ў бозе пачыўшага імператара Пятра Вялікага...»* Коўтун.

*ПАШАНЕ* ● **У ПАШ`АНЕ.** *Вык. Функц. не зам. Адабр.* **1**. Ужыв. пры

дзейн. са знач. асобы. Паважаны кім-н. —*Новую мадэль запусцілі ў вытворчасць. Попыт вялікі... —Значыць, і мы будзем у пашане.* Мыслівец. *Службовы лёс у Змітровіча складваўся ўдала, непрыемнасці міналі яго, у начальства заўжды быў у пашане, бо ўпраўленне планы выконвала.* Радкевіч.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Прызнаны такім, што заслугоўвае павагі. *Смеласць — вялікая доблесць*; *яна заўсёды была, і заслужана, у пашане кожнага з народаў нашай краіны.* Мележ. З *лёгкай рукі.. [К.Крапівы] беларуская камедыя ў пашане ўсюды.* Макаёнак.

*ПАШЛЕ* ● **ДЗЕ БОГ ПАШЛЕ.** Гл. бог.

**ХТО КУДЫ ПАШЛЕ.** Гл. хто.

*ПАШЛЮЦЬ* ● **СТАРШЫ КУДЫ ПАШЛЮЦЬ.** Гл. старшы.

*ПАШУКАЦЬ* ● **ПАШУК`АЦЬ ТАК`ОГА (ТАК`УЮ, ТАК`ІХ).** *Вык. і азн. Разм. Часцей адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Надзвычайны, з рэдкімі якасцямі. **Сін**.: адным словам ; без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); будзь-будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач); дай бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); кругом сто дваццаць; на славу (у 2 знач.); на ўсе рукі; на ўсе сто (у 3 знач.); на яць (у 2 знач.); па крайняй меры (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); першай гільдыі (у 1 знач.); першай рукі (у 1 знач.); першы клас; першы сорт; разлюлі-маліна (у 1 знач.); рэдкай рукі; слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.); як яечка. *Настаўнік Лукавіцын быў — пашукаць такога: старанны, паслухмяны і заўсёды ў начальства на відавоку.* Крапіва. *Бабуля Аляксандра скончыла расказваць і засмяялася: «Вось як, даражэнькія мае! Не бярэ бабу смерць. Не можа!» Не, бабуля Аляксандра — такую пашукаць!* Тычына. *Тамара наша, Петрушова, заяву напісала, Валерый Пятровіч. На звальненне... Я дужа не хачу адпускаць яе. Яна работнік — пашукаць такога.* Гарэлікава.

*ПАШЫЦЦА* ● **ПАШ`ЫЦЦА Ў Д`УРНІ.** *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паставіць сябе ў недарэчнае, смешнае становішча. **Сін**.: садзіцца ў галош; садзіцца ў лужыну; сесці макам (у 1 знач.); сесці на бабы. *[Князь Глінскі:] Як ты пашыцца ў дурні караля прымусіў? [Балінскі:] Хварэе наш кароль, і ад хваробы лекаў шукае ў добрых справах. Падагрэў я гэту думку ў ім, і ён паперу выдаў.* Клімковіч. *Понтус узяў газету, праглядзеў яе, здагадаўся, адклаў убок. Не паказваючы выгляду, што пашыўся ў дурні, пачухаў левую руку вышэй локця.* Карпаў.

*ПАШЭРХЛА* • **СКУРА ПАШЭРХЛА** *ў каго.* Гл. скура.

*ПАЯСНІЦЫ* • **ЖЫВОТ ДА ПАЯСНІЦЫ ПРЫРОС** *чый, у каго.* Гл. жывот.

*ПАЯСОК* • **ПА МАР`УСІН ПАЯС`ОК.** *Акал. Разм. Жарт.* Амаль да самага верху (шклянкі, чаркі), крыху няпоўна (налiваць, выпiваць і пад.). — *Налі пайней. Хоць па Марусін паясок, — стары паказаў шызаватым пазногцем на ружовую палоску на шклянцы.* Левановіч. *Першы выпіў два кілішкі.. А чацвёрты штурх у бок: «Па Марусін паясок».* «Вожык».

*ПАЯСЫ* • **ЗАЦЯГВАЦЬ ПАЯСЫ.** Гл. зацягваць.

*ПЕВЕНЬ* • **СМ`АЖАНЫ П`ЕВЕНЬ КЛ`ЮНУЎ (ДЗ`ЮБНУЎ) <У З`АД, У АЗ`АДАК>** *каго, каму. У безас. ужыв. Разм. Іран.* Хто-н. сустрэўся з сапраўднымі жыццёвымі цяжкасцямі, зведаў нягоды ў жыцці. **Сін**.: свая вош укусіць *каго. Гаварыў [Антон], праўда. Але ці мала што нагаворыць чалавек, а калі яму смажаны певень балюча ў зад клюне!* Быкаў. *Клюне цябе смажаны певень у азадак — тады зразумееш. Але не чакай, калі клюне. Варушы кацялком Павел. Варушы.* Шамякін. *[Ролік:] Акупацыі не нюхалі, адседзелі недзе... Шыбеніц не бачылі, Бабінага Яру не бачылі... Смажаны певень іх яшчэ ў азадак не дзюбнуў...* Караткевіч. *Так цягнулася да той пары, пакуль не клюнуў, як кажуць, смажаны певень... Снараднай трасай зрэзалі мне правую кансоль, а левага лётчыка збілі. Вось калі я зразумеў, што не ўсё прадбачыў у баі.* Алешка.

**ЧЫРВ`ОНЫ П`ЕВЕНЬ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Пажар. *Мы хацелі сёння ж, у такі ўрачысты час, аддаць твой двор чырвонаму пеўню.* Баранавых. *[Курт] падышоў да хаты, запаліў аб карабок запалку і паднёс аж да застрэшша... Чырвоны певень узмахнуў крылом, запеў, аж дым узняўся над сялом, аж зруб сялібы борам зазвінеў.* Танк. *І з падстрэшша брывоў вуголлем вочы яго [прадзеда] гарэлі. І ад іх аганьку, напэўна, пад санлівы і стомлены ранак крыллем узвіўся чырвоны певень над сядзібаю пана.* Блатун.

*ПЕВУНА* • **ПУСКАЦЬ <ЧЫРВОНАГА> ПЕВУНА** *<каму, куды, дзе>.* Гл. пускаць.

*ПЕГАСА* • **СЯДЛАЦЬ ПЕГАСА.** Гл. сядлаць.

*ПЕДАЛІ* • **НАЦІСКАЦЬ НА ЎСЕ ПЕДАЛІ.** Гл. націскаць.

*ПЕЙ* • **ХОЦЬ РЭПКУ ПЕЙ.** Гл. спявай.

*ПЕКЛА* • **З ПЕКЛА РОДАМ**. Гл. родам.

**ЛЕЗЦІ РАНЕЙ ЗА БАЦЬКУ Ў ПЕКЛА.** Гл. лезці.

*ПЕКЛЕ* • **ЯК МАРКА ПА ПЕКЛЕ.** Гл. марка.

**ЯК МАРКУ ПА ПЕКЛЕ.** Гл. марку.

*ПЕЛЬКУ* ● **ХОЦЬ <ТЫ> У ПЕЛЬКУ ГАЛАВОЙ.** Гл. вір.

*ПЕНАЙ* ● **З П`ЕНАЙ НА ГУБ`АХ (НА В`УСНАХ)** *дaказваць, абараняць, гаварыць* і пад. *Акал. Разм. Неадабр.* Вельмі горача, запальчыва; у гневе і раз’юшанасці. **Сін**.: з жарам. *Прыгажэй за яе [Галку] не было дзяўчыны ў горадзе. Віцька Шастапал з пенай на губах даказваў, што яна вылітая Мэрылін Манро...* Кацюшэнка. *—Сустракалі мы некалі такіх прапаведнікаў, — загаварыў ён [Дзерваед], пыхкаючы дымком папяросы. —На сходах яны з пенай на губах абаранялі дзікіх коз, а ў лесе выдушвалі іх ціхком адну за адною...* Паслядовіч. *Скамянелая веліч палаца хавае паноў у сваіх сценах ад халопскіх бунтаў, ад бальшавіцкай навалы, як яны любяць гаварыць пра гэта з пенаю на вуснах.* Пестрак.

*ПЕНКІ* ● **ЗНІМАЦЬ ПЕНКІ.** Гл. знімаць.

*ПЕНЬ* ● **БРАХАЦЬ НА ПЕНЬ.** Гл. брахаць.

**ВАЛІЦЬ ЦЕРАЗ ПЕНЬ КАЛОДУ.** Гл. валіць.

**НА ПЕНЬ БРАХАЦЬ ДЫ НА КАЛОДУ ТУКАЦЬ** *вучыць* і пад. Гл. брахаць.

**П`ЕНЬ АС`ІНАВЫ (БЯР`ОЗАВЫ).** *Адз. і мн. Вык. і зваротак. Праст. Груб.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Тупіца, дурань, бесталковы чалавек. **Сін**.: алёша з батонамі; асёл маляваны; галава <і> два вухі; галава садовая; галава яловая; дубовая галава; конь божы; курыная галава; куст альховы; медны лоб; мех з саломай; пустая галава. **Ант**.: светлая галава. У *душы [Абакунчык] думаў без ліслівасці: «Пень ты асінавы.., а не старшыня. Па камандзе, як які яфрэйтар, думаеш, весці гаспадарку?»* Ермаловіч.

**У П`ЕНЬ**. *Акал. Разм. Ужыв. пры вык.-дзесл. зак. тр.* Зусім, ушчэнт (збіць, знішчыць, сапсаваць і пад.). *Ты ж маўчы, вайны не кратай – хай знішчаюць нас у пень.* Колас. *Коні збілі ў пень нашыя грады, — а вы не бачыце.* Янкоўскі. *Увесь народ вымардуюць і вымараць у пень, да апошняга чалавека.* «Дзеяслоў». *[Ваяводы пераможнымі рэляцыямі] пахваляюцца: «У Мсціславе секлі ад сэрца, секлі ў пень і ўсіх высеклі».* Петрашкевіч. *Быў такі лясок, ды выразалі ў пень, бо не сваё ж, калхознае.* Барадулін.

**Ц`ЕРАЗ П`ЕНЬ КАЛ`ОДУ.** *Акал. Разм. Неадабр.* **1**. Абы-як, нядбайна (рабіць што-н.). **Сін**.: абы дзень адбыць; абы дзень да вечара (у 1 знач.); абы з рук; з плеч ды ў печ (у 2 знач.); з пятага на дзесятае (у 2 знач.); па канец рук; праз пятае ў дзесятае (у 2 знач.); пусці павалюся (у 2 знач.); спусціўшы рукавы; сяк-так (у 2 знач.); сяк-так накасяк <абы не па-людску>; цапам-лапам; цапу-лапу; цяп ды

ляп. **Ант**.: душы паслухаючы; з аганьком; закасаўшы рукавы; не пакладаючы рук. *Перш працавалі цераз пень калоду, абы дзень прайшоў.* Гурскі. *Гравёры рэжуць дошкі для гравюр і часам робяць гэта цераз пень калоду.* Караткевіч.

**2**. Нязладжана, нягладка, з перашкодамі (ісці). *Сам пан гаспадарку ведаў мала, вельмі ў яе не ўнікаў, ва ўсім спадзяваўся на аканома, і справы ішлі цераз пень калоду.* Карамазаў. *Жыццё паварочвалася да яго то бокам, то спінай, часам падстаўляла скрытую падножку... І ўсё астатняе ішло ў Сідара то наперакос, то цераз пень калоду.* Макарэвіч. *Бываюць жа такія дні: як нешта не зладзіцца зранку, так потым і ідзе цераз пень калоду.* «Полымя».

**ЦІ САВОЙ АБ ПЕНЬ ЦІ ПНЁМ АБ САВУ.** Гл. савой.

*Глухі* **ЯК ПЕНЬ.** *Акал. Разм.* Зусім. *Глухі як пень Пракоп сядзеў пад паветкаю ды палукашак падплятаў.* Лобан. *—І грэх быў бы, каб не прыехалі. Ён жа глядзеў іх... —Хоць і глухі быў як пень, а іх шанаваў...* Кудравец.

*Дурны* **ЯК П`ЕНЬ.** *Акал. Разм.* Вельмі, надзвычай. **Сін.**: як бот <з левай нагі>; як сабака да году; як сала без хлеба. *Не хачу ні сумак цягаць, ні здароўе апошняе лажыць на сотках. Не хачу, каб людзі з мяне смяяліся, што дурная як пень*... Далідовіч.

*ПЕРАБЕГ* ● **ВОЎК ДАРОГУ ПЕРАБЕГ** *каму.* Гл. воўк.

**СЛУП ДАРОГУ ПЕРАБЕГ** *каму.* Гл. слуп.

*ПЕРАБЕГЛА* ● **ЧОРНАЯ КОШКА ПЕРАБЕГЛА** *паміж кім.* Гл. кошка.

*ПЕРАБЕГЧЫ* ● **ПЕРАБЕГЧЫ ДАРОГУ** *каму. Зак. да* **ПЕРАБЯГАЦЬ ДАРОГУ** *каму.*

*ПЕРАБ'ЕШ* ● **С`ОПЛЯЙ ПЕРАБ'`ЕШ** *каго. У безас. ужыв. Праст. Груб.* Хто-н. слабасільны, нядужы, шчуплы, кволы. **Ант**.: даўбнёй не прыб'еш *каго. [Яўсееўна:] Вунь Султанішку маладую ратавала. Паўночы вазілася, сячэнне рабіла. З гэтымі во інструментамі! Хлопец на пяць кіло вываліўся, а Султанішка, вы ж ведаеце, — муха! Сопляй пераб'еш.* Быкаў.

**ПЕРАБІР`АЦЬ (РАЗБІР`АЦЬ) ПА К`ОСТАЧКАХ** *каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Асуджаць чые-н. недахопы, абмяркоўваць каго-н. **Сін**.: апалосквацъ косці *чые, каго* (у 2 знач.); перабіраць <усе> костачкі *чые,каго, каму* (у 2 знач.); перамываць костачкі *чые, каго, каму* (у 2 знач.). *Тут заравеш.., завыеш. На заўтра прызначан сход. Зноў пачнуць перабіраць па костачках.* Асіпенка. *Верыну дырэктрысу і яе неўгамоннага мужа разбіраем мы па костачках.* Карпюк. **ПЕРАБРАЦЬ (РАЗАБРАЦЬ) ПА КОСТАЧКАХ** *каго. Зак. Не толькі яго самога — усю радню яго*

*перабяру па костачках.* Крапіва. А *потым мы, жанчыны, перабяром вас па костачках, усё перагаворым, усё зложым у адно — поўны партрэт-характарыстыка.* Дамашэвіч.

*ПЕРАБІРАЦЬ* • **ПЕРАБІР`АЦЬ У ГАЛАВ`Е (У П`АМЯЦІ, У Д`УМКАХ)** *каго, што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Успамінаючы, абдумваць, уяўляць паслядоўна адно за адным. *Штосьці нядобрае, нуднае смактала мяне... Што з ёю [Тарэзай]? Перабіраў у галаве здагадкі, думаў і думаў, але на розум нічога ўсцешнага, зразумелага не прыходзіла.* М.Капыловіч. *Сяргей пачаў прыкідваць, каго можна было б параіць на яго цяперашнюю пасаду. Ён перабіраў у памяці ўсіх аграномаў, што працавалі ў МТС і калгасных зонах.* Шахавец. *Клімёнак сядзеў і перабіраў у памяці, каго з палка можна паслаць да танкістаў.* Дамашэвіч. *Яна перабірала ў думках вельмі многае і зусім не ведала таго, што зараз Міканор, лежачы на ложку, думаў не толькі аб сынах, але і аб ёй, Арыне.* Ракітны. **ПЕРАБРАЦЬ У ГАЛАВЕ (У ПАМЯЦІ, У ДУМКАХ)** *каго, што. Зак. Па некалькі разоў перабраў [Алесь] у памяці ўсё, што трэба зрабіць назаўтра, уявіў сваю гаворку з Барысам Васільевічам і нават паспрачаўся.* Броўка.

**ПЕРАБІР`АЦЬ <УС`Е> К`ОСТАЧКІ (К`ОСЦІ)** *чые, каго, каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Абгаворваць каго-н., распаўсюджваць плёткі. **Сін**.: апалосквацъ косці (у 1 знач.); малоць языком (у 2 знач.); мыць языком *каго, што;* мянціць языком (у 2 знач.); перамываць костачкі *чые, каго, каму* (у 1 знач.); часаць язык (у 2 знач.). *Нават самыя старыя людзі не памяталі такога здарэння. Ахнулі ад здзіўлення, а пасля ад рогату. І пайшлі перабіраць Марысьчыны костачкі, пайшлі перамываць языкамі.* Крапіва. **ПЕРАБРАЦЬ <УСЕ> КОСТАЧКІ (КОСЦІ)** *чые, каго, каму. Зак. Ляснічы новы не з’явіўся, а ўжо, як трэба, уявіўся; усе падробна распісалі, як бы яго даўно тут зналі... Ну, адным словам, адчыталі, ўсе косці пану перабралі.* Колас. *Паліна ўсе костачкі яго на людзях перабярэ, а пасля цмокне ў шчаку — ён і плавіцца, як свечка васковая, толькі вочы жмурыць ад задавальнення.* Іпатава.

**2**. Дэталёва, падрабязна абмяркоўваць, вывучаць каго-н. **Сін**.: апалосквацъ косці *чые, каго* (у 2 знач.); перабіраць па костачках *каго*; перамываць костачкі *чые, каго, каму* (у 2 знач.). **ПЕРАБРАЦЬ <УСЕ> КОСТАЧКІ (КОСЦІ)** *чые, каго, каму. Зак. Ні Клава, ні Фіма не ведалі, як цяжка атрымаць дазвол, каб пабачыцца з арыштаваным! Пакуль дазволяць — перабяруць усе тваё костачкі: хто ты, які ты, чаму ты, а не другі?* Баранавых.

*ПЕРАБЛЫТАНЫ* ● **<УСЕ> КАРТЫ ПЕРАБЛЫТАНЫ** *чыё, каго.* Гл. карты.

*ПЕРАБЛЫТАЦЬ* ● **ПЕРАБЛЫТАЦЬ <УСЕ> КАРТЫ** *каму, чые, каго. Зак. да* **БЛЫТАЦЬ <УСЕ> КАРТЫ** *каму, чые, каго.*

*ПЕРАБРАЦЬ* ● **ПЕРАБРАЦЬ ПА КОСТАЧКАХ** *каго. Зак. да* **ПЕРАБІРАЦЬ ПА КОСТАЧКАХ** *каго.*

**ПЕРАБРАЦЬ У ГАЛАВЕ** *каго, што. Зак. да* **ПЕРАБІРАЦЬ У ГАЛАВЕ** *каго, што.*

**ПЕРАБРАЦЬ <УСЕ> КОСТАЧКІ** *чые, каго, каму. Зак. да* **ПЕРАБІРАЦЬ <УСЕ> КОСТАЧКІ** *чые, каго, каму.*

*ПЕРАБЯГАЦЬ* ● **ПЕРАБЯГ`АЦЬ (ПЕРАХ`ОДЗІЦЬ, ПЕРАСТУП`АЦЬ) ДАР`ОГУ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Перашкаджаць каму-н., апярэджваючы ў чым-н. і перахопліваючы тое, на што разлічваў іншы. **Сін**.: даваць падножку *каму*; заступаць дарогу *каму*; падстаўляць ножку *каму*; псаваць абедню *каму*; ставіць падножку *каму*; ставіць палкі ў кола *каму, чаго*; станавіцца на дарозе *чыёй, каму, чаму*; станавіцца папярок дарогі *каму, чыёй*; стаяць на дарозе *чыёй, у каго*; стаяць папярок дарогі *каму, каго.* **Ант**.: саступаць з дарогі (у 2 знач.); сыходзіць з дарогі. *Мог бы ўжо і Вінцэсь у горадзе быць, на другім курсе. А от жа не шанцуе... Гарадскія дарогу перабягаюць — растаропны яны, языкі добра падвешаны...* Місько. *Гаркушу ўжо ўзялі на заметку нашы хлопцы з АБКС. Ці варта перабягаць ім дарогу?* «Звязда». *Ляўчук сам пэўна не ведаў, кахаў Клаву ці не, можа, проста яна па-дзявочы падабалася яму, але ён не зрабіў ні адной спробы зблізіцца з ёй, бо не хацеў пераходзіць дарогу Платонаву.* Быкаў. **ПЕРАБЕГЧЫ (ПЕРАЙСЦІ, ПЕРАСТУПІЦЬ) ДАРОГУ** *каму. Зак. [Торгала:] З маладых год у мяне да вас імпэт быў, ды Сымон перабег дарогу.* Крапіва. *І, здавалася ж, усё добра складвалася, дык не! Хлюст нейкі дарогу перайшоў і вось, зусім побач, Ніну да сэрца прыціскае... А я?* Бондар. *[Антаніна Львоўна:] Усё думала: дзе гэта, у чым я пераступіла вам дарогу?.. [Наталля Фёдараўна:] Нідзе вы не пераступілі мне дарогу.* Шамякін. *Любіла я твайго Андрэя. Тайком ад цябе любіла, праз шчылінку... Не пераступлю я табе дарогі з ім, Ніначка, не думай, задушу сябе сваімі рукамі, а не пераступлю. У мяне хопіць на гэта сілы.* Лобан.

*ПЕРАВАРОЧВАЕЦЦА* ● **СВЕТ ПЕРАВАРОЧВАЕЦЦА** *<дзе>*. Гл. свет.

**СВЕТ ПЕРАВАРОЧВАЕЦЦА Ў ВАЧАХ** *чыіх.* Гл. свет.

**СЭРЦА ПЕРАВАРОЧВАЕЦЦА** *ў каго.* Гл. сэрца.

*ПЕРАВАРОЧВАЎСЯ* ● **СВЕТ НЕ ПЕРАВАРОЧВАЎСЯ** *ад чаго.* Гл. свет.

*ПЕРАВАРОЧВАЦЦА* ● **ПЕРАВАР`ОЧВАЦЦА ДАГАР`Ы НАГ`АМІ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Змяняцца

карэнным чынам, станавіцца зусім іншым. **Сін**.: пераварочвацца ўверх дном; ставіцца дагары нагамі; ставіцца з ног на галаву. *Усё яго [Рыбакова] жыццё пераварочвалася дагары нагамі, але, здаецца, давала надзею жыць.* Быкаў. **ПЕРАВЯРНУЦЦА ДАГАРЫ НАГАМІ.** *Зак. За адзін дзень пастарэла Сымоніха на дзесяць год. Страх на яе глядзець: дагары нагамі ўсё жыццё яе перавярнулася.* Бядуля. *Ай, ліха яго бяры з работаю. Сёння ўжо няхай прападае дзень. Можна сказаць — дзень такі, што... Усё дагары нагамі перавярнулася ў мяне.* Чорны.

**ПЕРАВАР`ОЧВАЦЦА ЎВ`ЕРХ ДН`ОМ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Змяняцца карэнным чынам, станавіцца зусім іншым. **Сін**.: пераварочвацца дагары нагамі; ставіцца дагары нагамі; ставіцца з ног на галаву. **ПЕРАВЯРНУЦЦА ЎВЕРХ ДНОМ.** *Зак. Вестка аб вайне моцна ўсхвалявала Тараса. Не верылася, што так раптоўна перавярнулася ўсё ўверх дном не толькі ў яго асабістым жыцці, але і ў жыцці ўсёй краіны.* Якімовіч. *Я вас завяду да самага маленькага чыноўніка — ён цяпер больш ведае за галоўнакамандуючага, запэўніваю вас. Усё перавярнулася ўверх дном.* Лобан.

*ПЕРАВАРОЧВАЦЬ* • **ПЕРАВАР`ОЧВАЦЬ ДАГАР`Ы НАГ`АМІ** *што. Незак. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыводзіць у поўны беспарадак, у хаатычны стан. **Сін**.: пераварочваць уверх дном *што* (у 1 знач.); ставіць з ног на галаву *што* (у 2 знач.). *Трэба было пераварочваць усё дагары нагамі.., каб паслаць дзве пасцелі.* Гартны. **ПЕРАВЯРНУЦЬ ДАГАРЫ НАГАМІ** *што. Зак. Абшукалі ўсе прыдарожныя кусты і лагчынкі, перавярнулі дагары нагамі ўвесь абоз.., але ніякіх слядоў Мішкавае прысутнасці знайсці не маглі.* Лынькоў. *Арыштавалі шмат каго, а потым выпусцілі... Нават у нашых Ветраках перавярнулі ўсё дагары нагамі.* Баранавых.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Змяняць што-н. карэнным чынам. **Сін**.: пераварочваць уверх дном *што* (у 2 знач.); ставіць воз наперадзе каня; ставіць з ног на галаву *што* (у 1 знач.). *Карнач.. некаторыя бясспрэчныя ісціны дзеля жарту пераварочваў дагары нагамі.* Шамякін. **ПЕРАВЯРНУЦЬ ДАГАРЫ НАГАМІ** *што. Зак. Наватар, што ні гавары, мастак па-свойму гнуць: усё нагамі дагары гатоў перавярнуць.* Крапіва. *А потым здарылася нешта зусім нечаканае, зусім непрадбачанае — пайшлі такія падзеі, якія за тыдзень перавярнулі ўсё дагары нагамі.* Зарэцкі.

**ПЕРАВАР`ОЧВАЦЬ СВ`ЕТ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. *<чым>*. Здзяйсняць што-н. незвычайнае, рабіць што-н. зусім іншым, не такім, як было. *[Даніла:] Укляпаўся*

*чорт ведае ў што. Людзі свет параварочваюць, а яму бабская спадніца ўсё засланіла.* Крапіва. **ПЕРАВЯРНУЦЬ СВЕТ** <*чым*>. *Зак. Ты думаеш сваімі вершыкамі свет перавярнуць? Не такія былі да цябе. Згінулі ў турмах, і след прастыў.* Адамчык. *[Іван Пятровіч:] Кіньце вы ўрэшце мудраваць і не старайцеся сваёй дысертацыяй свет перавярнуць!..* Лецка.

**2**. Выконваць празмерна вялікую работу, справу. **Сін**.: варочаць горы <*з кім, з чым*>; чорту рогі скруціць. **ПЕРАВЯРНУЦЬ СВЕТ.** *Зак. Эх, каб я не быў жанаты! Свет бы я перавярнуў!* Колас. *З Ваўністым можна свет перавярнуць. А пасля ўжо, калі вернецца Юрась, тады ўтрох і яму хату паставяць.* Чорны.

**ПЕРАВАР`ОЧВАЦЬ УВ`ЕРХ (ДАГАР`Ы) ДН`ОМ** *што. Незак. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыводзіць у поўны беспарадак, у хаатычны стан. **Сін**.: параварочваць дагары нагамі *што* (у 1 знач.); ставіць з ног на галаву *што* (у 2 знач.). **ПЕРАВЯРНУЦЬ УВЕРХ (ДАГАРЫ) ДНОМ** *што. Зак. Чулі, што ў Гродна грыбоўшчынскія бабы натварылі?.. Кажуць, увесь горад перавярнулі ўверх дном!* Карпюк. *Уварваліся [жандары] як віхура, перавярнулі ўсё ўверх дном...* Дамашэвіч. *Замыкаюць [бацькі] дома малых... А тыя там на галовах ходзяць, за дзень усю кватэру ўверх дном перавернуць.* Вышынскі. *Фашысты перавярнулі ўсё ў хаце дагары дном, лазілі на вышкі, абшуквалі дрывотню і хлеў.* Жычка.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Змяняць што-н. карэнным чынам. **Сін**.: параварочваць дагары нагамі *што* (у 2 знач.); ставіць воз наперадзе каня; ставіць з ног на галаву *што* (у 1 знач.). **ПЕРАВЯРНУЦЬ УВЕРХ (ДАГАРЫ) ДНОМ** *што. Зак. Так смерць ляснічага старога Міхала моцна ўскалыхнула і ўсё ўверх дном перавярнула.* Колас. *[Віноўнік] зрабіў сваё — і шыта-крыта, папробуй — дакажы віну. Стаpанна ўсе хады паблытаў, усё ўверх дном перавярнуў.* Бачыла.

**ПЕРАВАР`ОЧВАЦЬ <УС`Ё> НУТР`О** *ў каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Вельмі моцна хваляваць, глыбока ўзрушваць каго-н. **Сін**.: выварочваць душу *чыю, каму*; вярэдзіць душу *каму, чыю*; вярэдзіць рану *каму, чыю*; муціць душу *каму, каго*; пераварочваць <усю> душу *чыю, каму, каго*; скрэбці за душу *каго*; труціць душу *каму.* **ПЕРАВЯРНУЦЬ <УСЁ> НУТРО** *ў каго. Зак. Незак. Паглядзіш на яго — вясёлы і бесклапотны дзяцюк! А пачне гаварыць... усё нутро ва ўсіх пераверне...* Гарэцкі. *У Максіма гэтыя словы перавярнулі ўсё нутро, ажно, здалося, заклекатала ў грудзях.* Шамякін.

**ПЕРАВАР`ОЧВАЦЬ <УС`Ю> ДУШ`У** *чыю, каму, каго. Незак. Функц.*

*не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Вельмі моцна хваляваць, глыбока ўзрушваць каго-н. **Сін**.: выварочваць душу *чыю, каму*; вярэдзіць душу *каму, чыю*; вярэдзіць рану *каму, чыю*; муціць душу *каму, каго*; пераварочваць <усё> нутро *ў каго*; скрэбці за душу *каго*; труціць душу *каму*. *Што ты мне душу пераварочваеш? З мяне бюро даволі!* Шамякін. **ПЕРАВЯРНУЦЬ <УСЮ> ДУШУ** *чыю, каму, каго. Зак. Таго, што дзяўчына сказала, было дастаткова, каб перавярнуць усю маю душу.* «Маладосць». *Гулі трывожна ночы мая, як выбягала на шашу... І вестка, самая цяжкая, перавярнула ўсю душу.* Прыходзька. *Сярдзюк і раней дакладна не ведаў, пра што ён будзе гаварыць з Машаю. Сапраўды пра што? Не мог жа ён сказаць ёй, што яе нечаканы прыезд перавярнуў яго душу...* Карпаў.

*ПЕРАВЕСЦІ* ● **ПЕРАВЕСЦІ ДУХ.** *Зак. да* **ПЕРАВОДЗІЦЬ ДУХ.**

**ПЕРАВЕСЦІ НА РЭЙКІ** *чаго, якія. Зак. да* **ПЕРАВОДЗІЦЬ НА РЭЙКІ** *чаго, якія.*

*ПЕРАВОД* ● **ПЕРАВ`ОД НА Р`ЭЙКІ** *чаго, якія. Мн. не ўжыв. Часцей дап. Функц. не зам.* Перабудова чаго-н. пэўным чынам. *Устойлівага прагрэсу ў якасным развіцці эканомікі няма. Мы мала рушылі наперад па шляху яе пераводу на рэйкі інтэнсіфікацыі.* «Звязда».

*ПЕРАВОДЗІЦЬ* ● **ПЕРАВ`ОДЗІЦЬ Д`УХ (ДЫХ`АННЕ).** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Дыхаць, аддыхвацца. *[Ганна] чуць дух пераводзіць, зліпаюцца вочы, яшчэ дабыла сіл, ды дзе больш дабыць?* Купала. **ПЕРАВЕСЦІ ДУХ (ДЫХАННЕ).** *Зак. Хлапчук перавёў дух. Аддыхваўся з хвіліну, пасля зноў сыпануў словамі.* Чорны. *І толькі калі ёй [Валі] пачало не хапаць паветра, а ногі ў каленях аслабелі, яна суцішылася і перавяла дух.* Дамашэвіч.

**2**. Рабіць кароткі перапынак, перадышку ў чым-н. *Ігнатовіч нейкую хвіліну праглядаў паперы, даючы тым, хто ўвайшоў, сесці і «перавесці дыханне».* Шамякін. **ПЕРАВЕСЦІ ДУХ (ДЫХАННЕ).** *Зак. [Дзед Талаш] толькі тады прыпыніўся і перавёў дух, калі адышоўся даволі далёка і ўпэўніўся, што пагоні за ім няма.* Колас. *[Дзед Цыбулька:] Пасядзі, перавядзі дух.* Макаёнак. *Адстрэльваючыся, яны змянілі напрамак, доўга беглі ў кустоўі і, толькі калі адышліся кіламетры на два, у нейкім ляску перавялі дыханне.* Быкаў.

**ПЕРАВ`ОДЗІЦЬ НА Р`ЭЙКІ** *чаго, якія. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Арганізоўваць, накіроўваць, перабудоўваць што-н. пэўным чынам. **Сін**.: ставіць на рэйкі *якія, чаго што. Справа яшчэ і ў тым, што такі прагматызм уваходзіць у жорсткую супярэчнасць з мастакоўскай прыродай рэжысёрскай прафесіі, пераводзячы яе на рэйкі рамесніцкага*

*практыцызму.* «ЛіМ». **ПЕРАВЕСЦІ НА РЭЙКІ** *чаго, якія. Зак. —Цяпер прагрэс у навуцы і тэхніцы ўжо вызначае, а хутка яшчэ болей будзе вызначаць аблічча свету,— гаварыў інжынер Лейкін. —Хто возьме яго ў свае рукі, перавядзе на ваенныя рэйкі, той і запануе...* Далідовіч.

*ПЕРАВЯРНУЎСЯ* ● **ПЕРАВЯРН`УЎСЯ (-ЛАСЯ, -ЛІСЯ) Б У ТРУН`Е.** *Зак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Жахнуўся б, абурыўся б (калі б даведаўся пра што-н., убачыў што-н. і пад.). Пра нябожчыка. *—Каб пра гэта пачула маці, яна б у труне перавярнулася, — дакараў Сяргей.* Гурскі. *«Калі б твой дзед даведаўся, што твой жаніх — сын простага машыніста, ён бы перавярнуўся ў труне...»— прашамкала Галі адна графіня.* Прокша. *І завядзёнкі нечуваныя паціху пачалі пры двары прыжывацца. Вось і цяпер у іх гаворка — пачуўшы пра што, нябожчыца, ранейшая царыца, у труне перавярнулася б.* Мехаў.

**СВЕТ НЕ ПЕРАВЯРНУЎСЯ** *ад чаго.* Гл. свет.

*ПЕРАВЯРНУЦЦА* ● **ПЕРАВЯРНУЦЦА ДАГАРЫ НАГАМІ.** *Зак. да* **ПЕРАВАРОЧВАЦЦА ДАГАРЫ НАГАМІ.**

**ПЕРАВЯРНУЦЦА ЎВЕРХ ДНОМ.** *Зак. да* **ПЕРАВАРОЧВАЦЦА ЎВЕРХ ДНОМ.**

*ПЕРАВЯРНУЦЬ* ● **ПЕРАВЯРНУЦЬ ГОРЫ** *<з кім, з чым>. Зак. да* **ВАРОЧАЦЬ ГОРЫ** *<з кім, з чым>.*

**ПЕРАВЯРНУЦЬ ДАГАРЫ НАГАМІ** *што. Зак. да* **ПЕРАВАРОЧВАЦЬ ДАГАРЫ НАГАМІ** *што.*

**ПЕРАВЯРНУЦЬ СВЕТ.** *Зак. да* **ПЕРАВАРОЧВАЦЬ СВЕТ.**

**ПЕРАВЯРНУЦЬ УВЕРХ ДНОМ** *што. Зак. да* **ПЕРАВАРОЧВАЦЬ УВЕРХ ДНОМ** *што.*

**ПЕРАВЯРНУЦЬ <УСЁ> НУТРО** *ў каго. Зак. да* **ПЕРАВАРОЧВАЦЬ <УСЁ> НУТРО** *ў каго.*

**ПЕРАВЯРНУЦЬ <УСЮ> ДУШУ** *чыю, каму, каго. Зак. да* **ПЕРАВАРОЧВАЦЬ <УСЮ> ДУШУ** *чыю, каму, каго.*

*ПЕРАГІНАЦЬ* ● **ПЕРАГІН`АЦЬ П`АЛКУ** *<у чым>. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даходзіць да залішняй крайнасці ў чым-н. **Сін**.: ламаць дровы; хапаць цераз край. *Я гэта кажу таму, што ў нас у гэтым пытанні вельмі перасольваюць, перагінаюць палку...* Галавач. *Калі Гайслер у сваіх плявузганнях на мітынгах пачаў перагінаць палку, яго спынілі: майляў, досыць!* «Звязда». **ПЕРАГНУЦЬ ПАЛКУ** *<у чым>. Зак. Канечне, Раман Барысавіч, я поўнасцю з вамі згодна, тут наш шэф перагнуў палку.* Гігевіч. *Алег нечакана астыў і адчуў сорам. Перагнуў ён палку, пачаўшы гэтую спрэчку з камандзірам.* Савіцкі.

*ПЕРАГНУЦЬ* ● **ПЕРАГНУЦЬ ПАЛКУ** *<у чым>. Зак. да* **ПЕРАГІНАЦЬ**

**ПАЛКУ** *<у чым>.*

*ПЕРАГРЫЗЦІ* ● **ПЕРАГРЫЗЦІ ГОРЛА** *каму. Зак. да* **ГРЫЗЦІ ГОРЛА** *каму.*

*ПЕРАГРЫЗАЦЬ* ● **ПЛЕШ ПЕРАГРЫЗАЦЬ** *каму.* Гл. пераядаць.

**ПЛЕШ ПЕРАГРЫЗЦІ** *каму. Зак. да* **ПЛЕШ ПЕРАГРЫЗАЦЬ** *каму.*

*ПЕРАДОК* ● **СЛАБАЯ НА ПЕРАДОК.** Гл. слабая.

*ПЕРАЕСЦІ* ● **ПЕРАЕСЦІ ВАНТРОБЫ** *каму. Зак. да* **ПЕРАЯДАЦЬ ВАНТРОБЫ** *каму.*

**ПЕРАЕСЦІ ДУШУ** *каму. Зак. да* **ПЕРАЯДАЦЬ ДУШУ** *каму.*
**ПЕРАЕСЦІ КІШКІ** *каму. Зак. да* **ПЕРАЯДАЦЬ КІШКІ** *каму.*
**ПЕРАЕСЦІ КОСЦІ** *каму. Зак. да* **ПЕРАЯДАЦЬ КОСЦІ** *каму.*
**ПЕРАЕСЦІ ПЯЧОНКІ** *каму. Зак. да* **ПЕРАЯДАЦЬ ПЯЧОНКІ** *каму.*
**ПЕРАЕСЦІ СЭРЦА** *каму. Зак. да* **ПЕРАЯДАЦЬ СЭРЦА** *каму.*

**ПЛЕШ ПЕРАЕСЦІ** *каму. Зак. да* **ПЛЕШ ПЕРАЯДАЦЬ** *каму.*

*ПЕРАЙСЦІ* ● **ПЕРАЙСЦІ ДАРОГУ** *каму. Зак. да* **ПЕРАБЯГАЦЬ ДАРОГУ** *каму.*

**ПЕРАЙСЦІ РУБІКОН.** *Зак. да* **ПЕРАХОДЗІЦЬ РУБІКОН.**

*ПЕРАКАВАЦЬ* ● **ПЕРАКАВАЦЬ МЯЧЫ НА АРАЛЫ.** *Зак. да* **ПЕРАКОЎВАЦЬ МЯЧЫ НА АРАЛЫ.**

*ПЕРАКАТНАЯ* ● **ГОЛЬ ПЕРАКАТНАЯ.** Гл. голь.

*ПЕРАКАЦІ* ● **<НІБ`Ы> ПЕРАКАЦ`І-ПОЛЕ.** *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Разм. Неадабр.* Той, хто доўга не жыве на адным месцы, не мае пастаяннага прыстанішча. **Сін**.: пералётны птах. *У такіх закутках, як Кавальцы, затрымліваюцца або аброслыя гаспадаркай, пажылыя настаўнікі, або такія, як я, перакаці-поле, якім трэба часовы прытулак.* Навуменка. *Без гэтых каранёў [патрыятызму] — не чалавек, а перакаці-поле, якому ўсё адно, дзе быць... Такія «перакаці-поле» — як у гэтым ні прыкра прызнавацца — былі нават сярод маіх аднавяскоўцаў.* Сачанка. *Думаць аб Левановічу, што ён ветраны чалавек, перакаці-поле, сёння тут, а заўтра там, —Зязюля не меў ніякай падставы.* Рылько. *«І адкуль яго прынесла, гэтае перакаці-поле?» — з непрыязню думаў Пракоп пра Перапечку.* Сіняўскі. *Валодзя ў іх нібы перакаці-поле. Дзе ўжо не пажыў толькі! Казаў, што настальгію шызафрэнікі прыдумалі. Дзе добра, там і радзіма. А Веры і падумаць страшна, каб з месца зрушыцца. І маці як пакінуць? Быў бы яшчэ бацька жывы...* Кадзетава.

*ПЕРАКІДАЦЬ* ● **ПЕРАКІД`АЦЬ (ПЕРАК`ІДВАЦЬ) М`ОСТ (М`ОСЦІК, МАСТ`ОК, МАСТК`І).** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. *да чаго.* Непрыкметна пераходзіць ад адной тэмы

размовы да другой. *Арыфметычная падрабязнасць пра дзвесце запыленых салдацкіх ботаў.. хвалюе сваёй суровай скупасцю і перакідае мосцік да наступнай страфы.* Шкраба. *Ужо недзе з сярэдзіны артыкула.. крытык пачынае перакідваць масткі да будучага артыкула пра М.Стральцова.* «ЛіМ». **ПЕРАКІНУЦЬ МОСТ (МОСЦІК, МАСТОК, МАСТКІ).** *Зак. Не здзіўляйцеся, калі ад кветкі я перакіну масток да такой далікатнай і складанай задачы, як выхаванне інтымных пачуццяў.* Вітка.

**2**. *куды, да чаго.* Звязваючы, аб’ядноўваць адно з другім. *І далей невядомы Барысу аўтар перакідваў масток ад плямёнаў у бліжэйшыя гады і сучаснасць, калі ўжо цэлыя народы, якія лічылі сябе культурнымі, перамаглі ў вайне слабейшых за сябе і святкавалі перамогу...* Якавенка. *Відаць, не без адпаведнага адабрэння, у амерыканскіх газетах і часопісах пачалі з’яўляцца і публікацыі, у якіх робяцца спробы перакінуць мосцік ад падзей саракагадовай даўнасці ў сённяшні дзень.* «Вожык».

**3**. *паміж кім, паміж чым.* Прымірэць каго-, што-н. **ПЕРАКІНУЦЬ МОСТ (МОСЦІК, МАСТОК, МАСТКІ)** *паміж кім, паміж чым. Зак. —Зі, што ж ты маўчыш?.. — ціха прамовіў Шаблін, робячы спробу перакінуць мост паміж мінулым і сучасным і з гэтай мэтай называючы яе ранейшым імем Зі.* Васілёнак.

*ПЕРАКІДВАЕЦЦА* ● **МОСТ ПЕРАКІДВАЕЦЦА** *паміж чым, ад чаго да чаго.* Гл. мост.

*ПЕРАКІДВАЦЬ* ● **ПЕРАКІДВАЦЬ МОСТ.** Гл. перакідаць.

*ПЕРАКІДНЫ* ● **ПЕРАКІДНЫ МАСТОК** *да чаго.* Гл. масток.

*ПЕРАКІНУЦЬ* ● **ПЕРАКІНУЦЬ МОСТ.** *Зак. да* **ПЕРАКІДАЦЬ МОСТ.**

*ПЕРАКЛАДАЦЬ* ● **ПЕРАКЛАДАЦЬ (ПЕРАКЛАДВАЦЬ) НА ПЛЕЧЫ** *каго, чые, каму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вызваляючы сябе ад чаго-н., абцяжарваць гэтым іншага. *[Антаніна] заўжды адчувае сябе крыху няёмка, калі просіць маці зрабіць нешта ў яе кватэры, здаецца, што перакладае сваю работу на чужыя плечы.* Радкевіч. *Я не ўмею ні ганарыцца, ні перакладаць цяжар на нечыя плечы. Люблю ўсё сама рабіць.* Далідовіч. *Задачу захавання міру трэба будзе выканаць людзям, якія жывуць цяпер, не перакладаючы яе на плечы нашчадкаў.* Шамякін. *Замест таго, каб набліжаць увод аб’екта ў строй, абодва бакі шукаюць «аб’ектыўныя» прычыны, перакладваюць адказнасць на плечы сумежнікаў.* «Звязда». **ПЕРАКЛАСЦІ НА ПЛЕЧЫ** *каго, чые, каму. Зак. Сотнікаў.. менавіта з тых сімпатычных Быкаву людзей, якія свой абавязак не перакладуць на плечы другому.* Адамовіч.

*ПЕРАКЛАДВАЦЬ* ● **ПЕРАКЛАДВАЦЬ НА ПЛЕЧЫ** *каго, чые, каму.* Гл. перакладаць.

*ПЕРАКЛАДНЫХ* ● **НА ПЕРАКЛАДН`ЫХ.** *Акал. Разм.* Усяк, рознымі відамі транспарту (ехаць, дабірацца і пад.). *Дабіраўся я да Мажайска – электрычкай, да Гагарына – рэйсавым аўтобусам, потым да Смаленска ўжо на перакладных. І ад Смаленска да Віцебска – на грузавіку.* «Полымя». *Яна шукала толькі прычыну, хаця ж магла плюнуць на ўсе ўмоўнасці і сказаць галоўнаму ўрачу санаторыя, што ў яе памерла маці, што ёй трэба быць абавязкова дома, і выправіцца ў дарогу. Хоць на перакладных, хоць на спадарожных…* Бароўскі.

*ПЕРАКЛАСЦІ* ● **ПЕРАКЛАСЦІ НА ПЛЕЧЫ** *каго, чые, каму. Зак. да* **ПЕРАКЛАДАЦЬ НА ПЛЕЧЫ** *каго, чые, каму.*

*ПЕРАКОЎВАЦЬ* ● **ПЕРАК`ОЎВАЦЬ МЯЧ`Ы НА АР`АЛЫ.** *Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Раззбройвацца, выкарыстоўваць усе сродкі на мірныя мэты. *—Што, таварыш баец, перакоўваеш мячы на аралы? —Пара, таварыш камісар, — усміхнуўся Князёў, — бачыш, косы і плугі заржавелі, зямля заялавела.* Грахоўскі. **ПЕРАКАВАЦЬ МЯЧЫ НА АРАЛЫ.** *Зак. Не зваліся вар'яты, і рана перакоўваць мячы на аралы, і таму дзень і ноч у Сусвет углядаюцца вочы ракет.* Чэрня. *Мы заклікалі і заклікаем перакаваць мячы на аралы, знішчыць зброю.* «Звязда».

*ПЕРАКРЫВАЦЬ* ● **ПЕРАКРЫВ`АЦЬ КІСЛАР`ОД** *каму, чаму. Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Ствараць неспрыяльныя ўмовы для чыёй-н. дзейнасці. **ПЕРАКРЫЦЬ КІСЛАРОД** *каму, чаму. Зак. Гэта ўрад са мной змагаецца: ён перакрыў мне ўсялякі кісларод…* Баравікова. *Калі б рэформы ішлі прадумана і талкова, то ці перакрылі б кісларод таму самаму Ванятку.* «ЛіМ». *Літаратура пачынае самасцвярджацца, набываць новы твар, абагачацца за кошт традыцый іншых культур. Такой літаратуры немагчыма «перакрыць кісларод».* Аркуш.

*ПЕРАКРЫТЫ* ● **КІСЛАРОД ПЕРАКРЫТЫ** *каму, чаму.* Гл. кісларод.

*ПЕРАКРЫЦЬ* ● **ПЕРАКРЫЦЬ КІСЛАРОД** *каму, чаму. Зак. да* **ПЕРАКРЫВАЦЬ КІСЛАРОД** *каму, чаму.*

*ПЕРАЛАМАЦЬ* ● **НЕ ПЕРАЛАМ`АЦЬ ХЛ`ЕБА** *з кім. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. З-за непрыязнасці да каго-н. не сесці з ім за адзін стол частавацца. *Тут сястра ўпала амаль у істэрыку, яе дачка пачала плакаць, каб я ў іх засталася, сын ужо прынёс гарэлку. «Не, – сказала я, – з такімі людзьмі не пераламлю я хлеба» – і выйшла.* Геніюш.

*ПЕРАЛЁТНЫ* ● **ПЕРАЛЁТНЫ ПТАХ.** Гл. птах.

*ПЕРАЛІВАННЕ* ● **ПЕРАЛІВ`АННЕ З ПУСТ`ОГА Ў ПАР`ОЖНЯЕ.** *Часцей адз. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* **1.** Марная трата часу, бескарысны занятак. **Сін**.: гульня ў бірулькі. *Спрэчкі [крытыкаў і песняроў] часам нагадваюць пераліванне з пустога ў парожняе: або за навейшае адкрыццё выдаюцца ісціны даўно вядомыя, або робяцца вынаходствы, якія здольны збіць паэзію з яе правільнага шляху.* Шкраба. *Кожны натупаўся за дзень, як конь у малатарні, а што зрабілі? Нуль цэлых і два нулі дзесятых. Вось і пішы ў нарадзе: «Пераліванне з пустога ў парожняе...»* Грахоўскі.

**2.** Пустая балбатня. **Сін**.: тары-бары <растабары> (у 1 знач.); часанне языка. *Размова вялася між паненкамі і Саханюком аб справах другога зместу, аб іх знаёмых, адным словам, пачалося пераліванне з пустога ў парожняе.* Колас. *Ад такіх пераліванняў з пустога ў парожняе ён [Крушынскі] заўсёды ўваходзіў у цяжкі настрой.* Бядуля. У *Тані быў дрэнны настрой, зусім не прыгодны для перalівання з пустога ў парожняе, да чаго Катэр заўсёды была ахвотніцай.* Машара.

*ПЕРАЛІВАЦЬ* ● **ПЕРАЛІВАЦЬ ВАДУ.** Гл. ліць.

**ПЕРАЛІВ`АЦЬ З ПУСТ`ОГА Ў ПАР`ОЖНЯЕ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Займацца бескарыснай, безвыніковай справай; марна траціць час. **Сін**.: гуляць у бірулькі; насіць ваду рэшатам; таўчы ваду ў ступе (у 1 знач.). *Падлетак павінен кожны дзень працаваць. І не проста пераліваць з пустога ў парожняе. Свядома выконваць патрэбную чалавеку работу. Бачыць карысць сваёй работы.* Ермаловіч.

**2.** Весці пустыя размовы, займацца балбатнёй, пустасловіць. **Сін**.: араць дарогі; біць язык аб зубы (у 2 знач.); блынды правіць; гарадзіць плот <*каму*>; званіць у <разбіты> лапаць; круціць вала <за хвост> (у 2 знач.); ліць ваду; мазоліць язык; малоць языком (у 1 знач.); малоць не падсяваючы; мянціць языком; плесці кашалі <*каму пра каго, пра што*>; плесці кашалі з лапцямі; плесці лапці; пляскаць языком; разводзіць антымоніі; разводзіць тары-бары; тары-бары <растабары> (у 2 знач.); таўчы ваду ў ступе (у 2 знач.); тачыць лясы <*з кім*>; травіць баланду (у 1 знач.); трапаць языком; часаць язык (у 1 знач.); часаць языком. *[Альжбета:] Еш вот лепей, чымся з пустога ў парожняе пераліваць.* Купала. *[Васіль:] Ды і часу няма ў мяне пераліваць з пустога ў парожняе з вамі.* Козел. *«Ат, чым пераліваць з пустога ў парожняе, лепш памаўчаць», — гаворыць увесь яе выгляд.* Палтаран.

*ПЕРАЛІЎКІ* ● **ПІВА НЕ ПЕРАЛІЎКІ** *ў каго, дзе.* Гл. піва.

*ПЕРАЛІЧЫЦЬ* ● **НА ПАЛЬЦАХ МОЖНА ПЕРАЛІЧЫЦЬ** *каго, што.* Гл. можна.

**ПЕРАЛІЧЫЦЬ ЗУБЫ** *каму, у каго. Зак. да* **ЛІЧЫЦЬ ЗУБЫ** *каму, у каго.*

**ПЕРАЛІЧЫЦЬ РЭБРЫ** *каму.* Гл. палічыць.

*ПЕРАМЕНА* ● **ПЕРАМ`ЕНА (ЗМ`ЕНА) ДЭКАР`АЦЫЙ.** *Мн. не ўжыв. Дзейн. і дап. Кніжн.* Змена абставін, становішча, агульнага выгляду і пад. *Пазяхаючы, з каюты выйшаў Фролыч. Уцягнуўшы галаву ў плечы, нібы яму за каўнер падалі дажджавыя кроплі, паглядзеў на неба. —Перамена дэкарацый, — абыякава сказаў ён.* Крыга. *[Валя:] Мужчыны сучасныя — Аляксандры Македонскія, ды мы іх заўтра ж на кухню. [Сваевіч:] Ха-ха-ха. Рашуча!.. Гэта што ж, змена дэкарацый, вы абедаць, а мы гатаваць? Эксплуатацыя, Валік.* Рамановіч. *Спыніўся на абочыне нядаўна заасфальтаванага гасцінца, пастаяў. Хораша. І далёка відно. А якая ж тут, можна сказаць, адбылася вялікая змена дэкарацый. Не адна.* Брыль.

*ПЕРАМЫВАННЕ* ● **ПЕРАМЫВ`АННЕ К`ОСТАЧАК** *каго, чыіх. Дзейн. і дап. Разм. Неадабр.* **1**. Абгавор, пляткарства. *Вельмі шкоднай справай з'яўляецца і перамыванне костачак знаёмых або суседзяў.* Лазуркін.

**2**. Асуджэнне, крытыка чыіх-н. недахопаў. *Асабліва баяліся яго [Гаварушкі] позірку, калі ён пачынаў гаварыць пра справы калгасныя. У перамыванні костачак старшыні, брыгадзіраў ён быў майстар найлепшы.* Лобан. *Душа выкладчыка Гайдука трымцела. Ужо ішло перамыванне яго костачак — перавыбіралі па конкурсе.* Семашкевіч.

*ПЕРАМЫВАЦЬ* ● **ПЕРАМЫВ`АЦЬ (М`ЫЦЬ) К`ОСТАЧКІ (К`ОСЦІ, К`ОСТКІ)** *чые, каго, каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Абгаворваць каго-н., пляткарыць. **Сін**.: апалосквацъ косці *чые, каго* (у 1 знач.); малоць языком (у 2 знач.); мыць языком *каго, што*; мянціць языком (у 2 знач.); перабіраць <усе> костачкі *чые, каго, каму* (у 1 знач.); часаць язык (у 2 знач.). У *часе гэтых сесій-збораў было нямала абгавораў і розных штучак, жартаў, кпінак, ліхіх і добрых успамінак; то, часам, смехам, а то ў злосці перамывалі панам косці...* Колас. *Цікавы народ у нас, любіць чужыя косткі перамываць.* Машара. *Хай гавораць-абгаворваюць, хай мыюць костачкі — напляваць яму на ўсё гэта.* Місько. **ПЕРАМЫЦЬ КОСТАЧКІ (КОСЦІ, КОСТКІ)** *чые, каго, каму. Зак. Марыля да кумы хадзіла, каб костачкі суседак перамыць, а дзверы ў каморы зачыніць забыла.* Скрыпка.

**2.** Асуджаць чые-н. недахопы, крытыкаваць каго-н. **Сін**.: апалосквацъ косці *чые, каго* (у 2 знач.); перабіраць <усе> костачкі *чые,*

*каго, каму* (у 2 знач.); перабіраць па костачках *каго. Валатовіч.., не жадаючы, каб Полаз выказваўся пра Бародку — навошта перамываць косткі завочна, траціць зарад крытыкі, ці не лепш пакінуць яго на лепшы час? — стараўся скіраваць размову ўбок.* Шамякін. *Мы.. успаміналі тэхнікумаўскія прыгоды, перамывалі косці выкладчыку хіміі, якога не любілі за яго ўедлівасць.* «Полымя». **ПЕРАМЫЦЬ КОСТАЧКІ (КОСЦІ, КОСТКІ)** *чые, каго, каму. Зак.*

**ПЕРАМЫВАЦЬ ЯЗЫКОМ** *каго, што.* Гл. мыць.

*ПЕРАМЫЦЬ* ● **ПЕРАМЫЦЬ КОСТАЧКІ** *чые, каго, каму. Зак.* да **ПЕРАМЫВАЦЬ КОСТАЧКІ** *чые, каго, каму.*

**ПЕРАМЫЦЬ ЯЗЫКОМ** *каго, што. Зак.* да **ПЕРАМЫВАЦЬ ЯЗЫКОМ** *каго, што.*

*ПЕРАМЯНІЦЬ* ● **ПЕРАМЯНІЦЬ ПЛАСЦІНКУ.** *Зак.* да **МЯНЯЦЬ ПЛАСЦІНКУ.**

*ПЕРАПАЎНЯЦЬ* ● **ПЕРАПАЎН`ЯЦЬ Ч`АШУ <ЦЯРП`ЕННЯ>.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Даводзіць да таго, што няма больш сіл, магчымасці цярпець, зносіць што-н. **ПЕРАПОЎНІЦЬ ЧАШУ <ЦЯРПЕННЯ>.** *Зак. Яго згодніцкі тон перапоўніў чашу. Ала падскочыла да мужа і з шаленствам цынічна ўтаропілася ў барадаты твар, які чамусьці здаўся скуластым і вельмі шырокім.* Карпаў. *[Шчанюк] добра цяў вострымі маладымі зубамі. І было гэта як сігнал, як тая апошняя кропля, што перапоўніла чашу цярпення. Са страшным рыкам. Мурза кінуўся на шчанюка і ўраз падмяў яго.* Лялько.

*ПЕРАПЛЁТ* ● **БРАЦЬ У ПЕРАПЛЁТ** *каго.* Гл. браць.

**ПАПАДАЦЬ У ПЕРАПЛЁТ.** Гл. пападаць.

*ПЕРАПОЎНІЛАСЯ* ● **ЧАША <ЦЯРПЕННЯ> ПЕРАПОЎНІЛАСЯ.** Гл. чаша.

*ПЕРАПЛЮНЕ* ● **ПРАЗ ГР`ЫБ (ГУБ`У) НЕ ПЕРАПЛ`ЮНЕ.** *У ролі прэдык. азн. Разм. Іран.* Вельмі слабы. Пра старога ці хворага чалавека. *Другі праз грыб не пераплюне, сліняк цячэ па барадзе, а ўсё адно падчэпіць плюндру і ў рэстаран яе вядзе.* Гілевіч. [*Лепешаў*, с. 77: цераз губу не пераплюне.]

*ПЕРАПОЎНІЦЬ* ● **ПЕРАПОЎНІЦЬ ЧАШУ <ЦЯРПЕННЯ>.** *Зак.* да **ПЕРАПАЎНЯЦЬ ЧАШУ <ЦЯРПЕННЯ>.**

*ПЕРАПОЮ* ● **З ПЕРАП`ОЮ.** *Акал. Праст. Неадабр.* Пасля ці ў выніку моцнага ап'янення. *—Што ў вас, Ванькавіч, за настрой сёння?.. — Няйначай, з перапою, — засмяяўся Святаполк-Мірскі.* Гурскі. *Спытала камісія: —Адкуль перабоі? —А з перапою... — шапнуў на вуха начны вартаўнік.* Вітка.

*ПЕРАСКОЧЫЦЬ* ● **САБАКА НЕ ПЕРАСКОЧЫЦЬ.** Гл. сабака.

*ПЕРАСТАВІШ* ● **ДА МАСКВ`Ы Р`АКАМ НЕ ПЕРАСТ`АВІШ (НЕ ПАЎСТАЎЛ`ЯЕШ)** *каго. У безас. ужыв. Праст. Груб.* Залішне многа каго-н. **Сін**.: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго,* чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. [Цярэшка:] Хуценька саланіну, нясі яйкі, нясі гурочкі-галубочкі, капустачку кісленькую... Частаваць будзем. [Паліна:] Каго? [Цярэшка:] Начальства! Мяне! [Паліна:] Такога начальства да Масквы ракам не пераставіш.* Макаёнак. *—Мы са Стасем надумалі ў Мінск ехаць... —Во-во, толькі яшчэ вас там не хапала. Такіх, як вы, там набярэцца дай божа, да Масквы ракам не паўстаўляеш.* Асіпенка.

*ПЕРАСТАЛА* ● **ПЕРАСТАЛА БІЦЦА СЭРЦА** *каго.* Гл. сэрца.

*ПЕРАСТУПАЦЬ* ● **ПЕРАСТУПАЦЬ ДАРОГУ** *каму.* Гл. перабягаць.

**ПЕРАСТУП`АЦЬ ПАР`ОГ** *чый, чаго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паяўляцца дзе-н., прыходзіць, уваходзіць куды-н. **ПЕРАСТУПІЦЬ ПАРОГ** *чый, чаго. Зак. На Касцюшку, які пераступіў парог студэнцкай аўдыторыі ў першы мірны год і, што такое навучанне ва універсітэце, не ведаў, Вігдароўскі зрабіў незвычайнае ўражанне.* Навуменка. *Ніколі не забуду той першы дзень, калі я пераступіў школьны парог.* Губарэвіч. *Не меншай увагі патрабуе і той, хто ўпершыню пераступіў парог школы ў якасці настаўніка.* «Нар. асвета».

*ІІЕРАСТУПІЦЬ* ● **ПЕРАСТУПІЦЬ ДАРОГУ** *каму. Зак. да* **ПЕРАСТУПАЦЬ**

**ДАРОГУ** *каму.*

**ПЕРАСТУП`ІЦЬ ПАРОГ** *чый, чаго. Зак. да* **ПЕРАСТУПАЦЬ ПАРОГ** *чый, чаго.*

**ПЕРАСТУПІЦЬ ЦЕРАЗ ТРУП** *чый. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Загубіць каго-н. для дасягнення сваёй мэты. *[Марылька:] Пусці! [Жонка:] Калі пойдзеш, то цераз мой труп пераступіш!* Чорны. *[Гудовіч:] У мяне хопіць сілы пераступіць і цераз твой труп, і я пайду туды, куды кліча мяне мой народ і сумленне.* Крапіва.

*ПЕРАТВАРАЦЦА* ● **ПЕРАТВАР`АЦЦА `Ў СЛ`ЫХ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі ўважліва слухаць што-н., прыслухоўвацца да чаго-н. **Сін**.: вастрыць вушы глядзець у рот *каму* (у 1 знач.); настаўляць вушы; натапырваць вушы; развешваць вушы (у 1 знач.); стрыгчы вушамі. *Васіль ледзь утрымаў міжвольны ўздых аблягчэння, зноў ператвараючыся ў слых.* Блакіт.

*ПЕРАТВАРЫЎСЯ* ● **УВЕСЬ ПЕРАТВАРЫЎСЯ Ў СЛЫХ**. Гл. увесь.

*ПЕРАХАПІЦЬ* ● **ПЕРАХАПІЦЬ ЦЕРАЗ КРАЙ.** Гл. хапаць.

*ПЕРАХОДЗІЦЬ* ● **ПЕРАХОДЗІЦЬ ДАРОГУ** *каму.* Гл. перабягаць.

**ПЕРАХ`ОДЗІЦЬ РУБІК`ОН.** *Незак. Кніжн.* Ужыв пры дзейн. са знач. асобы. Прымаць беспаваротнае рашэнне, рабіць адказны, рашучы крок. **Сін**.: ісці ва-банк. *—Ну вось нарэшце і пераходзім рубікон,— бліснуў ён [Малевіч] пенснэ. —Вы як наконт гэтага?* Карпаў. **ПЕРАЙСЦІ РУБІКОН.** *Зак. Пройдзе ноч, рассеюцца туманы, ясным днём пяройдзем рубікон, і патухне боль глыбокай раны, гора ўсё забудзецца, як сон...* А.Александровіч. *Як бачыце, вельмі вялікая трансфармацыя адбылася ў ягонай душы, і назад, у халасцякоўства, дарогі ўжо не было. Ён [Моніч] перайшоў рубікон.* Дайнека.

*ПЕРАЯДА* ● **ПЕРА`ЯДА ВАНТР`ОБ.** *Мн. не ўжыв. Часта ў ролі вык. Праст. Асудж.* Той або тое, хто ці што страшэнна назаляе, даводзіць да адчаю. **Сін**.: ад'яда душы; выяда душы. *[Пасынак] над газетамі ўсё сядзіць, спусціўшы нос. Ох, гэтыя газеты! Гэта ёй пераяда вантроб. Яна на іх глядзець не можа.* Крапіва.

*ПЕРАЯДАЦЬ* ● **ПЕРАЯДАЦЬ ВАНТРОБЫ** *каму.* Гл. ад'ядаць.

**ПЕРАЯДАЦЬ ДУШУ** *каму.* Гл. ад'ядаць.

**ПЕРАЯДАЦЬ КІШКІ** *каму.* Гл ад'ядаць.

**ПЕРАЯД`АЦЬ К`ОСЦІ (К`ОСТАЧКІ)** *каму. Незак. Разм. Асудж.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Страшэнна хваляваць, даводзіць да адчаю каго-н., дакучаючы чым-н. непрыемным; станавіцца невыносным для каго-н. **Сін**.: ад'ядаць вантробы *каму*; ад'ядаць душу *каму*; выядаць душу *каму*; плеш пераядаць *каму.* **ПЕРАЕСЦІ КОСЦІ**

**(КОСТАЧКІ)** *каму. Зак. [Мішур:] Я ж кажу — па добрай знаямосці. [Ганна Паўлаўна:] Гэтыя знаямосці пераелі мне косці...* Шынклер. *[Мачаха] ужо ўсе костачкі пераела.* Брыль.

**ПЕРАЯДАЦЬ ПЯЧОНКІ** *каму.* Гл. ад'ядаць.

**ПЕРАЯДАЦЬ СЭРЦА** *каму.* Гл. ад'ядаць.

**ПЛ`ЕШ ПЕРАЯД`АЦЬ (ПЕРАГРЫЗ`АЦЬ)** *каму. Незак. Праст. Асудж.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна хваляваць каго-н., дакучаючы чым-н. непрыемным. **Сін.**: ад'ядаць вантробы *каму*; ад'ядаць душу *каму*; выядаць душу *каму*; пераядаць косці *каму*. **ПЛЕШ ПЕРАЕСЦІ (ПЕРАГРЫЗЦІ)** *каму. Зак. Днём сабраўся паспаць, ды дзе там! Цешча плеш пераела – то зрабі, то схадзі, то прынясі...* Сяргей. *Усё заявы ў міліцыю насіла, а што ўжо ўчастковаму нашаму, дык увогуле, як ён сам казаў, плеш пераела сваімі скаргамі.* Кадзетава. *Гэта ж і цябе яшчэ спілаваць трэба. Ляснік нам плеш перагрызе.* В.Ткачоў. *[Підута] па пяць разоў на дні ў рэдакцыю заходзіла, з вобласці брыгаду сацыёлагаў выклікала – даследаваць работу рэдактара. Карацей, увесь плеш небараку пераела.* Мудроў.

*ПЕР'Е* ● **<ТОЛЬКІ> ПЕР'Е ЛЯЦІЦЬ** *ад каго, з каго.* Гл. пух.

*ПЕРЛЫ* ● **СЫПАЦЬ ПЕРЛЫ ПЕРАД СВІННЯМІ.** Гл. сыпаць.

*ПЕРНІКАМ* ● **І ПЕРНІКАМ НЕ ЗМАНІШ** *каго куды.* Гл. зманіш.

*ПЕРСОНА* ● **ПЕРС`ОНА НОН ГР`АТА**. *Нескл. Часцей вык. Кніжн.* **1.** Дыпламат ці проста замежны грамадзянін, які страціў давер з боку ўрадавых устаноў той дзяржавы, дзе ён знаходзіўся. *Польскі ўрад, прыгразіўшы дыпламатычным дэмаршам, ультыматыўна запатрабаваў ад маладой Латвіі выслаць Ластоўскага, аб'явіўшы яго персона нон грата.* Янушкевіч. *Персона нон грата бываюць не толькі дыпламаты, але і звычайныя замежныя грамадзяне, якія парушаюць законы краіны, у якую прыехалі.* «ЛіМ».

**2.** Грамадзянін, нераўнапраўны ў сваёй краіне, непажаданы для ўлад. *Для Масквы я цяпер персона нон грата. Вось і жыву ў Вільні. Але баюся, што і тут скора буду персона нон грата.* Арабей. *– Пра мяне нельга пісаць – persona non grata... – ён рашуча загортвае запісную кніжку і кладзе ў кішэню.* Палтаран. *Хай вам імя – легіён. Ды жыць не ўмееш багата, не ўмееш нажыць мільён, – ты – персона нон грата.* Вярцінскі. *Запланаваў зборнік вершаў Ліны Кастэнка (не названая тым хлюстам персона нон грата).* Дубянецкі.

*ПЕРСОНАЙ* ● **УЛ`АСНАЙ ПЕРС`ОНАЙ.** *Акал. Разм. Іран.* Асабіста, непасрэдна сам. *Калі ён [Лаяна] паспрабаваў уласнай персонай з'явіцца да грузчыкаў, дык ледзь вынес ад іх ногі.* Лынькоў. *А вунь дзяжурная ўласнай персонай шыбуе.* Васілёнак. *Шэф цябе з самага*

*рання шукае, два разы заходзіў уласнаю персонаю.* Дайнека.

*ПЕРСТ* ● *Адзін* **ЯК П`ЕРСТ**. *Акал. Разм.* **1.** Зусім (адзін), без сям'і. **Сін.**: *адзін* як вока ў лобе; як ёсць *адзін*; як палец (у 1 знач.). *Скажы мне праўду — усё дарую. Я ж без цябе як перст адна, бо што лічыць яго, блазна? Як без цябе яго ўзгадую?* Колас. *Пад ліпай, што галлём чарнее, стаяла хата ў тры акны. Жыла там цётка Паланея, адна як перст пасля вайны.* Законнікаў.

**2.** У поўнай адзіноце. **Сін.**: як палец (у 2 знач.). *Старасць.. кіне іх адных, старэнькіх, адных як перст і чуць жывенькіх і непатрэбных анікому на цягасць жыццю маладому.* Колас. *І застаўся Іван Іванавіч адзін як перст.* Лыньков. *Зараз зіма, холадна, яна адна ў пустой няпаленай кватэры. Адна як перст.* Наварыч.

*ПЕРУНА* ● **ЯК З ПЕРУН`А.** *Акал. Разм.* Вельмі хутка (ісці, бегчы і пад.). **Сін.**: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы*; без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсіх парах; на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант.**: як чарапаха. *Сёння ў дарогу позна, ды і немец яшчэ слабы. А цераз ноч ён у мяне пойдзе як падмецены, так што мы да Слуцка даклыгаем як з перуна.* Чорны. *Заклікаць гаруна!.. У момант я спалю, як з перуна!* Колас.

*ПЕРУНОЎ* ● **ДАВАЦЬ ПЕРУНОЎ** *каму.* Гл. даваць.

*ПЕРУНЫ* ● **ПЕРУНЫ ЯГО ВЕДАЮЦЬ.** Гл. пярун.

*ПЕРЦІ* ● **П`ЕРЦІ (П`ЕРЦІСЯ) НА РАЖ`ОН.** *Незак. Праст. Груб. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіць што-н. рызыкоўнае, асуджанае на няўдачу; дзейнічаць, не думаючы пра вынікі. **Сін.**: лезці на ражон; перці супраць ражна. *Камандзір палка суха вылаяўся, сукіных сыноў памянуў, што гарачку поруць, праз гарачку тую на ражон пруць.* Лыньков. *«Ну і дурні, —думаў Ляўчук. —Чаго было перці на ражон, лепш ужо так, па балоце».* Быкаў. *Ты не гарачыся, дружа мой. Усё гэта так, але навошта дарэмная рызыка, навошта, як кажуць, перціся на ражон?* Краўчанка. — *Пайшлі... —Куды пайшлі? Чаго на ражон перціся?* А.Жук.

**П`ЕРЦІ (П`ЕРЦІСЯ) С`УПРАЦЬ (СУПР`ОЦЬ, ПР`ОЦІ) РАЖН`А.** *Незак. Праст. Груб. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.

Распачынаць што-н. рызыкоўнае, асуджанае на няўдачу. **Сін**.: лезці на ражон; перці на ражон. *—Сыдзі з дарогі, кажу табе! —Не пры супроць ражна, а то і табе будзе.* Галавач. *Кожнаму было страшна і ісці [ваяваць] не хацелася — але дзе ты супроць ражна папрэш.?* Каваль. *Немцы заспакоіліся, толькі калі пачало світаць, упэўненыя, што раніцаю ніхто на іх не нападзе... Разбітыя партызаны супраць ражна не папруць.* Гурскі. А *хто вам вінаваты ў гэтым трагізме? Чаго ж перціся проці ражна?* Колас.

*ПЕРЦІСЯ* ● **ПЕРЦІСЯ НА РАЖОН.** Гл. перці.

**ПЕРЦІСЯ СУПРАЦЬ РАЖНА.** Гл. перці.

*ПЕРЦУ* ● **ДАВАЦЬ ПЕРЦУ** *каму.* Гл. даваць.

**УСЫПАЦЬ ПЕРЦУ** *каму.* Гл. усыпаць.

*ПЕРШАГА* ● **З ПЕРШАГА ЗНАЁМСТВА.** Гл. знаёмства.

**З ПЕРШАГА ПОГЛЯДУ.** Гл. погляду.

**З ПЕРШАГА СЛОВА.** Гл. слова.

*ПЕРШАЕ* ● **НА ПЕРШАЕ ВОКА.** Гл. вока.

**ПЕРШАЕ СЛОВА** *ў чым, дзе.* Гл. слова.

*ПЕРШАЙ* ● **ДА ПЕРШАЙ ЗОРКІ.** Гл. зоркі.

**ЗОРКА ПЕРШАЙ ВЕЛІЧЫНІ.** Гл. зорка.

**НЕ ПЕРШАЙ МАЛАДОСЦІ.** Гл. маладосці.

**НЕ ПЕРШАЙ СВЕЖАСЦІ.** Гл. свежасці.

**ПЕРШАЙ ГІЛЬДЫІ.** Гл. гільдыі.

**ПЕРШАЙ МАРКІ.** Гл. маркі.

**ПЕРШАЙ РУКІ.** Гл. рукі.

*ПЕРШАЯ* ● **ПЕРШАЯ ЛАСТАЎКА.** Гл. ластаўка.

**ПЕРШАЯ МАЛАДОСЦЬ.** Гл. маладосць.

**ПЕРШАЯ СКРЫПКА.** Гл. скрыпка.

*ПЕРШУЮ* ● **ІГРАЦЬ ПЕРШУЮ СКРЫПУ** *ў чым.* Гл. іграць.

**ПРАКЛАДАЦЬ ПЕРШУЮ БАРАЗНУ.** Гл. пракладаць.

**СЫГРАЦЬ ПЕРШУЮ СКРЫПКУ.** Гл. сыграць.

**У ПЕРШУЮ ГАЛАВУ.** Гл. галаву.

**У ПЕРШУЮ ЧАРГУ.** Гл. чаргу.

*ПЕРШЫ* ● **НА ПЕРШЫ ВЫПАДАК.** Гл. выпадак.

**НА ПЕРШЫ ПЛАН.** Гл. план.

**НА ПЕРШЫ ПОГЛЯД.** Гл. погляд.

**НЕ ПЕРШЫ ГОД ЗАМУЖАМ.** Гл. замужам.

**ПЕРШЫ КЛАС.** Гл. клас.

**П`ЕРШЫ-Л`ЕПШЫ.** *Адз. і мн. Разм.* **1**. *Дап. і дзейн.* Любы чалавек, які толькі трапіцца. **Сін**.: і жук і жаба; кожны сабака; кожны

сустрэчны; пастухова ганна; першы сустрэчны; стрэчны <і> папярэчны (у 1 знач.). *Выйду раніцай на шлях, дам пару злотых першаму-лепшаму, абы конь добры трапіўся, дык, калі добра ўсё пойдзе, адвячоркам і там буду.* Машара. *Барані сваю Авечку, якая першаму-лепшаму дорыць трохсотгадовыя фамільныя медальёны.* Караткевіч.

**2.** *Часцей азн.* Ужыв. пры наз. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Няважна які, любы. **Сін**.: стрэчны <і> папярэчны (у 2 знач.). *Гэта табе не поле. Нетры вакол. Таму, выбраўшыся на першую-лепшую сцежку, ён [Алесь] даў Ургу волю.* Караткевіч.

**ПЕРШЫ СОРТ.** Гл. сорт.

**ПЕРШЫ СУСТРЭЧНЫ.** Гл. сустрэчны.

*ПЕРШЫМ* ● **НА ПЕРШЫМ ПЛАНЕ.** Гл. плане.

**ПЕРШЫМ ДЗЕЛАМ.** Гл. дзелам.

**ПЕРШЫМ ЧЫНАМ.** Гл. чынам.

*ПЕРШЫНСТВА* ● **ПАЛЬМА ПЕРШЫНСТВА.** Гл. пальма.

*ПЕРШЫХ* ● **ДА <ПЕРШЫХ> ПЕЎНЯЎ.** Гл. пеўняў.

**З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ.** Гл. вуснаў.

**З ПЕРШЫХ КРОКАЎ** <*чаго*>. Гл. крокаў.

**З ПЕРШЫХ РУК.** Гл. рук.

**НА ПЕРШЫХ ПАРАХ.** Гл. парах.

**У ПЕРШЫХ РАДАХ** *каго, чаго.* Гл. радах.

*ПЕРШЫЯ* ● **ПЕРШЫЯ КРОКІ** <*у чым, чаго*>. Гл. крокі.

*ПЕСЕНЬ* ● **ПЕСНЯ ПЕСЕНЬ.** Гл. песня.

*ПЕСЕНЬКА* ● **П`ЕСЕНЬКА (П`ЕСНЯ) СП`ЕТА** *чыя, каго. У безас. ужыв. Функц. не зам.* **1**. Чыё-н. жыццё блізіцца к канцу. *Смерць, жыццё... Дзіўна ўсё гэта! І нашто жыць? каб сканаць? Смерць прыйшла — І песня спета, і прыложана пячаць.* Колас. «*Састарэў, — спыніўся Паўлюк і дастаў шкляную трубачку. —Спета мая песенька».* Калодзежны.

**2**. Чые-н. поспехі канчаюцца, скончыліся. **Сін**.: зорка закацілася *чыя*; сонца зайшло *чыё.* **Ант**.: зорка ўзыходзіць *чыя*; сонца ўзыходзіць <*каму, для каго*>. *[Гарлахвацкі:] Варта мне толькі зняць трубку, пазваніць — і ваша песенька спета.* Крапіва. У *кожнай хаце панаваў страх, нарасталі трывога і хваляванне, але адначасова шырыліся надзеі і спадзяванні, што песенька белых спета.* С.Александровіч. *Мая ўпэўненасць і ўпартасць збівалі праціўніка з панталыку. Адчуўшы, што яго песня спета, вузкалобы знарок пазбягаў сустрэчы.* Карпюк.

*ПЕСНІ* ● **СПЯВАЦЬ ПЕСНІ** *каму*. Гл. спяваць.

*ПЕСНЮ* ● *Жыць* **ЯК ПЕСНЮ ПЕЦЬ.** Гл. пець.

*ПЕСНЯ* ● **Д`ОЎГАЯ П`ЕСНЯ.** *Мн. не ўжыв. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета ці пры дзейн.-займ. *гэта.* Тое, што патрабуе працяглага часу, што не скора можа быць зроблена, расказана і пад. *Адным словам, падмога, калі б яе папрасілі, — песня доўгая.* Кудравец. *Як я стала даяркай? О, гэта доўгая песня.* Мальдзіс. *—Скажыце, якім чынам трапіў да вас гэты партбілет? —А гэта доўгая песня, — працадзіў праз зубы чалавек у рагавых акулярах, з рыжай клінком бародкай.* Гурскі.

**ЛЕБЯДЗ`ІНАЯ П`ЕСНЯ** *чыя, каго. Мн. не ўжыв. Часцей вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Самае апошняе, звычайна найбольш значнае, праяўленне таленту, здольнасцей, дзейнасці. *Глыбокі сімвалічны сэнс ёсць у тым, што яго [Я.Купалы] лебядзінай песняй стаў верш аб Радзіме, якую паэт бачыў азоранай магутным святлом жыцця.* «ЛіМ». *Няўжо старасць — няўмольная, злая, жорсткая?.. А гэтае страснае пачуццё да беднай, мурзатай сялянскай дзяўчыны — лебядзіная песня? Апошні парог?..* Марчук.

**П`ЕСНЯ П`ЕСЕНЬ (П`ЕСНЯЎ).** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн. Узнёсл.* Выдатны, найлепшы твор, вяршыня творчасці. *У лістападзе 1919 года газета «Беларусь» апублікавала «Слова аб палку Ігаравым» у празаічным перакладзе Янкі Купалы. Песню песень на роднай мове прачытаў вялікі паэт, і яна стала зразумелай і блізкай нашаму чытачу.* Вялюгін. *Выдатная праца Сухамлінскага «Сэрца аддаю дзецям», у якой абагулены вопыт педагога-наватара,— гэта сапраўды яго песня песняў.* Вітка.

**ПЕСНЯ СПЕТА** *чыя, у каго.* Гл. песенька.

**СТАР`АЯ П`ЕСНЯ.** Мн. *не ўжыв. Часцей у знач. вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Даўно вядомае, многа раз чутае, назойлівае. *[Лявон:] Што чуў, што чуў? Старую песню: не адпускаецца. Сягоння высяляць будуць: ужо фурманкі ў іх наладжаны.* Купала. *—Э-э, — адказвае павук, — ведаю я, гэтыя гутаркі вашы — старая песня!* Ядвігін Ш. *Калі для нашай сям'і гэта — за апошнія дзесяць год пасля арышту бацькі — нова, дык для ўсіх, хто навокал жыве, усё гэта — старая песня.* Брыль.

*ПЕСНЯЎ* ● **ПЕСНЯ ПЕСНЯЎ.** Гл. песня.

*ПЕЎНЯ* ● **ПУСКАЦЬ ПЕЎНЯ.** Гл. пускаць.

**ПУСКАЦЬ <ЧЫРВОНАГА> ПЕЎНЯ** *каму, куды, дзе.* Гл. пускаць.

*ПЕЎНЯЎ* ● **ДА ДРУГ`ІХ П`ЕЎНЯЎ.** *Акал. Разм.* Незадоўга да світання (быць дзе-н., чакаць і інш.). *Свёкар добра яе разумеў: сапраўды, якая гэта такая вучоба, што называецца, да другіх пеўняў ды яшчэ ў*

*сістэме палітасветы?* Парахневіч.

**ДА <П`ЕРШЫХ> П`ЕЎНЯЎ.** *Акал. Разм.* Вельмі позна; да сярэдзіны ночы, да поўначы (сядзець, гуляць, не спаць і інш.). *Па ўсёй хаце стаяла духата. Але не ад гэтага Ціток да першых пеўняў не мог заснуць.* Лобан. *—І праўда, — падхапіла Зайчыкавы словы Сарока, — няўж[о] ж да пеўняў ждаць будзем пакуль прыцягнуцца ўсе?!* Мележ.

**ДА ТР`ЭЦІХ П`ЕЎНЯЎ.** *Акал. Разм.* Да самага світання (быць дзе-н., займацца чым-н. і інш.). *Запісалася ў хор шмат моладзі. Паступалі і Уля з Волькай. Спявалі да трэціх пеўняў.* Паўлаў. *Раманаўне ў тую ноч таксама было неспакойна. Да трэціх пеўняў яна прастаяла ля вішні ў палісадніку.* Гроднеў.

*ПЕЦЬ* ● **ПЕЦЬ АСАННУ** *каму, чаму.* Гл. спяваць.

**ПЕЦЬ З ГОЛАСУ** *чыйго.* Гл. спяваць.

**ПЕЦЬ З ЧУЖОГА ГОЛАСУ.** Гл. спяваць

**ПЕЦЬ ПЕСНІ** *каму.* Гл. спяваць.

**П`ЕЦЬ Р`ЭПКУ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Галасіць ад роспачы, адчаю. **Сін**.: аблівацца слязамі; бярозаю ліцца; вачэй не асушваць; выплакаць <усе> вочы; выціскаць слязу (у 1 знач.); ліць слёзы <*па кім*>; пускаць слязу; разводзіць сырасць; распускаць нюні (у 1 знач.); умывацца слязамі. *Засне ён [Ігналь]. Ці ты над ім рэпку пей, ці з гарматы над вухам страляй — усё адно не прачнецца.* Калюга.

**П`ЕЦЬ (СПЯВ`АЦЬ) ДЫФІР`АМБЫ** *каму, чаму. Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Празмерна ўсхваляць, вельмі ўзносіць каго-, што-н. **Сін**.: курыць фіміям *каму*; падымаць на шчыт *каго, што*; спяваць асанну *каму, чаму*; спяваць песні *каму*; узносіць да нябёс *каго, што. Тэхніку, якая ўчора лічылася перадавой, якой мы пелі дыфірамбы, сёння ён [Валянцін Ягоравіч] аб'яўляе дзедаўскай...* Дуброўскі. *Я яшчэ пакуль што нічога такога не зрабіў, за што можна было б пець мне дыфірамбы.* Пруднікаў. *Раней вы, пэўна, іначай думалі, дыфірамбаў не спявалі толькі таму, што не паспелі, а зараз...* Караткевіч. *Чаму мы іх гэтак хвалім, маладых, чаму спяваем столькі дыфірамбаў?* Радкевіч.

**П`ЕЦЬ (СПЯВ`АЦЬ) Л`АЗАРА.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыкідвацца няшчасным, каб расчуліць каго-н.; скардзіцца на свой лёс. **Сін**.: плакаць у камізэльку <*каму*>. *Ну, святая Барбара, цяпер на табе далёка не заедзеш. Як зловяць паны, дык і будзеш тады Лазара пець.* Крапіва.

*Жыць* **ЯК П`ЕСНЮ П`ЕЦЬ**; *пражыць* **ЯК П`ЕСНЮ СП`ЕЦЬ**. *Акал. Разм.* Вельмі дружна, у поўнай згодзе. **Сін.**: душа ў душу (у 1 знач.);

звон у звон; на адну нагу (у 1 знач.); у ладу *<з кім>*. **Ант.**: на нажах *<з кім>*; як кот з сабакам. *— Ты пакінеш, забудзешся на мяне, а таго не ведаеш, што ты мяне не адну пакінеш… — агарошыла яна Хведара, ох, як агарошыла. І шкада стала маладзіцу: жыў з ёю — як песню пеў.* Гроднеў. *Вольга Сямёнаўна мізэрная павэдлуг Паўла Іванавіча… І пражылі яны жыццё як песню спелі.* Шырко.

*ПЕЧ* ● **З ПЛЕЧ ДЫ Ў ПЕЧ.** Гл. плеч

**ПАД П`ЕЧ ГАЛАВ`ОЙ** жыць, расці і пад. *Абл. Акал. Разм.* У невуцтве, культурнай адсталасці, недасведчанасці. *Пабыў тут, убачыў жыццё. А яно, як ты сам кажаш, пачало віраваць. Не век жыць пад печ галавой.* Машара.

**ЯК АПОШНЯЕ Ў ПЕЧ УСЫПАЎШЫ.** Гл. усыпаўшы.

*ПЕЧАНЫ* ● **ГАД ПЕЧАНЫ.** Гл. гад.

**НІ СЫРЫ НІ ПЕЧАНЫ.** Гл. сыры.

*ПЕЧАЎ* ● **З СЯМІ ПЕЧАЎ ХЛЕБ ЕСЦІ.** Гл. есці.

*ПЕЧКІ* ● **АД ПЕЧКІ.** Гл. печы.

**П`ЕЧКІ І Л`АЎКІ (П`ЕЧКІ-Л`АЎКІ).** У *безас. ужыв. Разм.* **1**. *каму.* Хто-н. мае добры прытулак дзе-н. *Прымуць [у інтэрнаце] — то пасцель гатовая, чыстая, з падушкамі, яшчэ й падмятуць, падлогу памыюць. Там ён нікому ні ў шапку. Там яму й седала й едала, там гатовыя печкі і лаўкі.* Янкоўскі. *— Дома п'е?.. —Ого! Смалы ён у мяне дома вып'е, а не гарэлкі! — зноў загарэлася Яніна. —* У *браціка свайго, у Вацака. Яму там печкі і лаўкі.* Шашкоў.

**2**. *у каго з кім.* Хто-н. блізка знаёмы з кім-н. *Тут Іра падумала, што калі б яна папрасіла бацьку, то, відаць, той не паскупіўся б. Купіў бы і туфлі, і боцікі… Грошы ў яго ёсць, і з гандлярамі ў яго печкі-лаўкі.* Цяжкі.

**ТАНЦАВАЦЬ АД ПЕЧКІ.** Гл. танцаваць.

*ПЕЧЫ* ● **АД П`ЕЧЫ (П`ЕЧКІ).** *Акал. Разм.* З самага простага, з самага пачатку (пачынаць рабіць што-н.). **Сін.**: ад яйца; з азоў. *[Навіцкі:] Дзяніс Іванавіч, давайце не будзем забягаць наперад, а пачнём, як кажуць, ад печы. [Размысловіч:] Разумею, Георгій Максімавіч… Можна і ад печы, так сказаць…* Петрашкевіч.

**ТАНЦАВАЦЬ АД ПЕЧЫ.** Гл. танцаваць.

*ПЕШКІ* ● **ПАД СТОЛ ПЕШКІ ХОДЗІЦЬ.** Гл. ходзіць.

*ПЕШШУ* ● **ПАД СТОЛ ПЕШШУ ХОДЗІЦЬ.** Гл. ходзіць.

*ПЁРАХ* ● **ВАРОНА Ў ПАЎЛІНАВЫХ ПЁРАХ.** Гл. варона.

*ПІВА* ● **АДПРАЎЛЯЦЦА ДА АБРАМА НА ПІВА.** Гл. адпраўляцца.

**НАВАРЫЦЬ ПІВА.** Гл. наварыць.

**ПІВА НЕ ЗВАРЫШ** *з кім.* Гл. зварыш.

**П`ІВА НЕ ПЕРАЛ`ІЎКІ (ПЯР`ЭЛІЎКІ)** *у каго, дзе. У безас. ужыв. Разм.* Сур'ёзныя ці небяспечныя для каго-н. справы. *А сама [маці] тым часам пазнала, што тут у нас — піва, як кажуць, не пераліўкі, і падалася паўз сцяну на печ.* Брыль. *Бачаць хлопцы, што піва не пярэліўкі — трэба шукаць нейкую іншую раду. Сустрэліся з начальствам і ўпрасілі, каб зрабілі на хлопцаў.. патрэбныя дакументы і памаглі ім перайсці праз граніцу.* Лецка.

**ТРАПІЦЬ ДА АБРАМА НА ПІВА.** Гл. трапіць.

*ПІК* ● **ГАДЗІНЫ ПІК.** Гл. гадзіны.

*ПІКАВЫХ* ● **ПРЫ ПІКАВЫХ ІНТАРЭСАХ.** Гл. інтарэсах.

*ПІКУ* ● **У П`ІКУ** *каму. Акал. Функц. не зам.* З намерам даняць, раззлаваць каго-н., зрабіць непрыемнасць каму-н. **Сін**.: на злосць каму. *Чорны Фомка тым часам, як зачараваны, пазіраў на чалавека, які назваў сябе ў піку Слуцкаму Барысаўскім.* Паслядовіч. *Аршанскі бянтэжліва ўсміхнуўся, але адказаў у піку: —Чаму ж купляем і прадаём. Купляем элітных свінаматак, прадаём адкормленых дзяржаве.* Дуброўскі. *У піку і Богушу, і Заранчуку прагучалі словы Ігната і Матруны.* Ярашэвіч.

*ПІЛІП* ● <u>Выскокваць (выскачыць), з'яўляцца (з'явіцца)</u> **ЯК ПІЛ`ІП З КАНАП`ЕЛЬ.** *Акал. Разм. Неадабр.* Зусім нечакана, знянацку. **Сін**.: як чорт з табакеркі. *Прыляцеў матацыклам сын Лёня. Нібы дзе падпільноўваў за плотам, калі ўсе раз'едуцца, і выскачыў як Пілін з канапель.* Місько. *[Мохарт] не любіў выскокваць як Піліп з канапель, каб паказацца перад другімі.* Алешка. *—А вось, чым не жаніх,— дырэктар кіўнуў на Кольку... —Так, сапраўды... — не стрымаўся і Колька і як Піліп з канапель выскачыў наперад.* Дайнека. *Усе зробленыя раней памылкі выплывалі з таго, што я не ведаў усіх умоў працы і на новай пасадзе з'явіўся як Піліп з канапель.* Мрый.

*ПІЛЮЛЮ* ● **ПРАГЛЫНУЦЬ <ГОРКУЮ> ПІЛЮЛЮ.** Гл. праглынуць.

*ПІЛЮЛЯ* ● **Г`ОРКАЯ ПІЛ`ЮЛЯ.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм.* Што-н. непрыемнае, крыўднае, абразлівае для каго-н. *Зараз я паднімуся на трыбуну — і мірны дагавор будзе ратыфікаваны. Можаце, панове, пісаць дэпешы панам Вільсану і Клемансо. Для іх гэта будзе горкая пілюля.* Шамякін. *Паўднёваафрыканскі карэспандэнт успрыняў падпісанне дагавора аб ліквідацыі ракет сярэдняй і меншай дальнасці як горкую пілюлю.* «Звязда».

*ПІРАГАМІ* ● **ВАРОТЫ ПІРАГАМІ ПАДПЁРТЫ** *ў каго.* Гл. вароты.

*ПІРАГІ* ● **АДПЯКАЦЬ ПІРАГІ** *каму.* Гл. адпякаць.

**АДПЯК`УЦЦА (АДПЯКЛ`ІСЯ) ПІРАГ`І** *каму. У безас. ужыв. Разм.* Прыйдзе, настане расплата за прычыненую крыўду. **Сін**.: адальюцца слёзы *чые каму. Ледзь не ўсе ўзрадаваліся, сталі крычаць: — Дачакаўся нарэшце свайго! —Так яму і трэба! —Адпякуцца яму пірагі...* Каваленка.

*ПІСАНА* ● **В`ІЛАМІ ПА (НА) ВАДЗ`Е П`ІСАНА (-Ы).** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета ці пры займ. *гэта.* Невядома, ці ажыццявіцца што-н. Пра няпэўнае, маламагчымае. *[Тыталь:] Баішся, што бальшавікі прыйдуць? А скуль ты знаеш, што яны канешне прыйдуць? Та? То яшчэ віламі па вадзе пісана. Ясна?* Мележ. *Усё гэта яшчэ па вадзе віламі пісана,— пачаў Солах сумнявацца. —Многія яшчэ не вераць, што сапраўды будзе адно вялікае поле.* Бядуля. *Калгаснікі справядліва заўважаюць, што, відаць, віламі па вадзе пісаны тыя абавязацельствы «Сельгастэхнікі» ў дагаворы на тэхабслугоўванне.* «Вожык». *—Мне здаецца, Міша, рана яшчэ рабіць такія вывады: усё можа змяніцца, змяніцца ў лепшы бок. —Ну, гэта, друг ты мой, віламі на вадзе пісана,— панура адказаў Міхайла Іванавіч.* Колас.

*ПІСАНАЙ* ● **ЯК <ДУРАНЬ> З ПІСАНАЙ ТОРБАЙ.** Гл. дурань.

*ПІСАНЫ* ● **ЗАКОН НЕ ПІСАНЫ** *каму, для каго.* Гл. закон.

*ПІСАНЫМ* ● **ЯК ПА П`ІСАНЫМ.** *Акал. Разм.* **1**. Бойка, гладка, без запінкі <гаварыць, расказваць і пад.). **Сін**.: як па нотах (у 2 знач.); як рэпу грызці. *Затое, калі я ўжо блізка знаёміўся з людзьмі, дык тады знаходзіліся і дасціпныя словы, і сур'ёзныя гісторыі, якія магу расказваць як па пісаным.* Сабаленка. *Саламонава галава ў цябе, Міша. Як па пісаным сячэш.* Грахоўскі. *[Лушка:] Я думала, што вы толькі пра ферму ўмееце складна ды супроць прысядзібных участкаў, а вы... Як па пісаным.* Макаёнак.

**2**. Так, як планавалася, без ускладненняў і нечаканасцей (ісці, выходзіць і пад.). **Сін**.: як па нотах (у 1 знач.). *Спачатку ўсё ішло як па пісаным. Над палонкамі ў адной і другой камандзе завіхаліся спартсмены...* «ЛіМ».

*ПІСАЦЬ* ● **ПАЙШЛА ПІСАЦЬ.** Гл. пайшла.

**ПАЙШЛА ПІСАЦЬ ГУБЕРНЯ.** Гл. губерня.

*ПІСКУ* ● *<u>Напівацца (напіцца)</u>* **ДА ПАРАС`ЯЧАГА П`ІСКУ (В`ІСКУ).** *Акал. Разм. Неадабр.* Вельмі моцна, да стану бессвядомасці. **Сін**.: да чорцікаў (у 2 знач.); у дрызіну; у дым (у 1 знач.); у дыміну; як гразь; як зямля; як свіння. *[Лявон:] Сціхні ты, пустальга няшчасная... Бадай, адна такая птушка, як пустальга, табе і падыходзіць. Дык яна ж хоць разам са шкодай карысць прыносіць, грызуноў паядае. І не напіваецца да парасячага піску!* Лазуркін. *Толькі страх за ўтульнае*

*службовае крэсла ўтрымлівае. А так кожны дзень да парасячага віску насмоктваліся б.* Кадзетава. *Увечары гэтага дня ён [Раман] пазычыў у Польці бутэльку гарэлкі і ўпершыню ў жыцці напіўся да парасячага віску.* Сіўко. *Баба, расказваюць, да парасячага віску напілася і вырабляе абы-што.* «Маладосць».

*ПІСТАЛЕТАМ* ● **ТРЫМАЦЬ ХВОСТ ПІСТАЛЕТАМ.** Гл. трымаць.

*ПІЦЬ* ● **В`АШЫМІ (ТВА`ІМІ) В`УСНАМІ М`ЁД П`ІЦЬ.** *Выкл. Разм. Адабр.* Каб усё было так, як вы гаворыце. *—Вер, Андрэевіч, запомніш маё слова, што пачуюць! —Вашымі вуснамі мёд піць, Пятро Данілавіч!* Пестрак. *—Я веру, што яна жывая... —Вашымі вуснамі мёд піць! Вы проста цуд, Наталля Сяргееўна.* Шарахоўскі. *[Віктар:] Увагі папрашу, сябры, увагі!.. Нявыбраны вам хоча тамада напомніць, што сабраліся мы ў зале не толькі, каб спяваць і танцаваць. [Валерый:] Піць мёд тваімі б вуснамі.* Лукша.

**ДАВАЦЬ ПІЦЬ** *каму.* Гл. даваць.

**НОГІ МЫЦЬ** *каму, чые* **І ТУЮ ВАДУ ПІЦЬ.** Гл. мыць.

**П`ІЦЬ <Г`ОРКУЮ> Ч`АШУ ДА ДН`А.** *Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі многа пакутаваць, цярпець, пераносіць якія-н. цяжкасці. *Да канца мы гатовы з вамі піць горкую чашу да дна.* Бачыла.

**ПІЦЬ ПАПРАСІЦЬ** *у каго.* Гл. папрасіць.

**П`ІЦЬ (СМАКТ`АЦЬ, ВЫСМ`ОКТВАЦЬ, СС`АЦЬ) КР`ОЎ** *з каго, чыю. Незак. Разм. Пагард.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1.** Бязлітасна эксплуатаваць, даводзіць да беднасці каго-н. **Сін**.: вазіць ваду *на кім*; высмоктваць сок *з каго, з чаго* (у 1 знач.); выціскаць пот *з каго* (у 1 знач.); выціскаць сокі *з каго*; драць скуру *з каго* (у 1 знач.); цягнуць гізунты *з каго*; цягнуць жылы з *каго*; цягнуць кішкі *з каго*; цягнуць сок *з каго. Гаварыў [Шыбянкаў] пра тое, як кулакі, гэтыя найлюцейшыя, найгрубейшыя эксплуататары, пілі кроў з сялянскае бедняты...* Зарэцкі. *—Папаліся, гады! Не век жа вам чужую кроў смактаць! — чуліся паасобныя выклікі людзей з тратуараў, з вуліцы.* Лынькоў. *Гэта... вялікі Смільгус. Інжынер-гідратэхнік. Усё маладое жыццё праваяваў з бельгійскімі канцэсіянерамі, якія высмоктвалі з літоўцаў кроў за сваю паршывую электраэнергію.* Ракітны. *Гэта ж кулак... Ён жа з людзей кроў ссе. Гэта ж эксплуататар...* Лобан. **ВЫПІЦЬ (ВЫСМАКТАЦЬ, ВЫССАЦЬ) КРОЎ** з *каго, чыю. Зак. — Грамада! — крычыць Цімох, — ужо выбралі? Захара Лемеша? Каго ж вы выбралі? Яшчэ мала выпіў з вас крыві?* Колас. *Паўстаньце, покуль цар звыродны крыві ўсяёй не выссаў з вас!* Купала.

**2**. Мучыць каго-н., прычыняць пакуты. **Сін**.: вымаць душу *з каго*;

высмоктваць сок з *каго, з чаго* (у 2 знач.); вытрасці душу *з каго, каму* (у 1 знач.); даставаць гізунты *з каго*; дыхаць не даваць *каму* (у 2 знач.); есці поедам *каго*; напіцца крыві *чыёй.* **ВЫПІЦЬ (ВЫСМАКТАЦЬ, ВЫССАЦЬ) КРОЎ** з *каго, чыю. Зак. [Тэкля:] Зноў пайшоў цягацца праз ноч, не дай бог. От, з'еў маё жыццё, от, высмактаў маю кроў паляваннем гэтым.* Самуйлёнак. *Якія гэта былі залатыя хлапчукі! Як яна іх потым любіла! Праўда, крыві яе выпілі яны нямала...* Васілевіч.

**ЯК ПІЦЬ ДАЦЬ.** Гл. даць.

*ПІШЧЫЦЬ* ● **НЕ Ў ЯЙЦ`Ы (У `ЯЙКУ, У Я`ЕЧКУ) ПІШЧ`ЫЦЬ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Нялёгка дастаецца, дарма не возьмеш. **Сін**.: на дарозе не валяецца; нідзе не валяецца. Часцей пра грошы. *Прынізіў мяне кадэт, разважаў Лабановіч, выходзячы з кіраўніцтва чыгунак, а на вуліцы сам сабе сказаў: — Дзесяць рублёў [што атрымаў за работу] не ў яйцы пішчаць.* Колас. *Прапанова Кажана [зрабіць сястры сталярку] Казіку спадабалася. Што ні кажы, а дзве зарплаты ў месяц — гэта не ў яечку пішчыць.* Дайліда. *Цяпер нам трэба сама мала тысячу [рублёў]... А гэта не ў яйку пішчыць.* Дамашэвіч.

*ПІШЧОМ* ● **ЛЕЗЦІ ПІШЧОМ** *куды, да каго.* Гл. лезці.

*ПІШЫ* ● **ПІШ`Ы ПРАП`АЛА.** *Толькі ў заг. л. У безас. ужыв. Разм.* Нічога не атрымаецца, няўдача будзе непазбежнай. *А калі мы дзе-небудзь засядзем у гразі, тады пішы прапала!* Гурскі. *Калі дзеці адчуюць, што вы баіцеся, няўпэўнены, — пішы прапала.* Левановіч.

**Х`ОЦЬ ІК`ОНУ ПІШ`Ы (МАЛ`ЮЙ)** *з каго. Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм. Часцей іран.* Хто-н. вельмі добры ва ўсіх адносінах. *—А ото нашы два Вінцукі, — знаёміў гаспадар. —Абодва паэты. Абодва добрыя грамадзяне. Абодва добрыя мужы. —Ну, проста хоць ікону з мяне пішы, — буркнуў мужыкаваты.* Караткевіч. *Ну, надта ж ужо расхвальваецца ваш намеснік Клінцоў Раман Мітрафанавіч. Такі ўжо ён добры — ну, святы, хоць ікону з яго малюй.* Сачанка.

*ПЛАВАННЕ* ● **СВАБ`ОДНАЕ (В`ОЛЬНАЕ) ПЛ`АВАННЕ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Самастойнае існаванне, дзейнасць без дзяржаўнай матэрыяльнай падтрымкі, фінансавання. *Ці гатовы наш Саюз да свабоднага плавання?* «Звязда». *Ёсць на гэта адказ: шукаць выйсце ў вольным плаванні, сваімі ўнёскамі ўтрымліваць маленькі апарат і плошчу, якую мы здолеем аплаціць.* «ЛіМ».

*ПЛАВАЦЬ* ● **М`ЕЛКА ПЛ`АВАЦЬ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. *<у чым>.* Слаба разбірацца ў чым-н., мець абмежаваныя здольнасці. **Сін**.: не бачыць далей <свайго> носа.

*Адазвала [Літвінава] Таццяну Іосіфаўну ўбок ды заявіла: —Мелка плаваеш. Сама адкажыся ад старшынства. У цябе саліднасці мала.* Бялевіч. *Ты мелка плаваеш, Пятроў... Фантазіі ў цябе, мой мілы, мала!* Э.Валасевіч. *Хоць бы не лез глыбей Грак, хоць бы не прыціснуў чым-небудзь і не здагадаўся, што Федзя ў гэтай справе пакуль што мелка плавае.* Міська.

**2.** Займаць нязначнае службовае або грамадскае становішча. **Ант**.: высока лятаць. *Пышны баль у нас сягоння, і закуска, і гарэлка!.. Слава пісару Сямёну! Ах! каб ён не плаваў мелка!* Колас.

**ЯК СЫР У МАСЛЕ ПЛАВАЦЬ.** Гл. купацца.

*ПЛАДЫ* ● **ПАЖЫНАЦЬ ПЛАДЫ** *чаго.* Гл. пажынаць.

*ПЛАКАЦЬ* ● **Б'ЮЦЬ І ПЛАКАЦЬ НЕ ДАЮЦЬ.** Гл. б'юць.

**ПЛ`АКАЦЬ У КАМІЗ`ЭЛЬКУ** *<каму>. Незак. Разм. Іран. ці жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Скардзіцца на свой лёс, каб расчуліць каго-н., выклікаць спачуванне да сябе. **Сін**.: пецъ лазара. *Вялікіх дзён не будаўнік, не рад ні сонцу, ні вясне,— ён цэлы дзень, як дзень вялік, у камізэльку плача мне...* Крапіва.

*ПЛАН* ● **АДЫХОДЗІЦЬ НА ЗАДНІ ПЛАН.** Гл. адыходзіць.

**НА ДРУГ`І (З`АДНІ) ПЛ`АН**. *Акал. Функц. не зам.* Як менш істотны, як другарадны, нязначны (адцясніць, адступаць і пад.). **Сін**.: на другі план. *Тады ў вёсцы з выглядам гаспадароў, адцясніўшы страхаўчан нейкім чынам на другі план, важна ступалі электрыкі.* В.Ткачоў. *Слухаў дзед Талаш гэтыя навіны, і яго ўласная крыўда заціралася, адступала на задні план.* Колас. *Цяжка мірыцца з тым, што цябе адцінаюць на задні план.* Крапіва.

**НА П`ЕРШЫ (ПЯР`ЭДНІ) ПЛ`АН**. *Акал. Функц. не зам.* Як найбольш істотнае (выходзіць, выступаць, вылучаць і пад.). *З болем паэт піша.., што на першы план выходзіць карыслівасць і дробязны клопат пра ўласны дабрабыт.* Шкраба. *[У аповесці] на першы план выступае сюжэтная інтрыга.* Тычына. *Прыхільнікі рамантызму на першы план вылучалі індывідуальнасць, надзяляючы яе ідэальнымі памкненнямі.* Гніламёдаў. *Ва ўмовах палітычнага генацыду.. на пярэдні план выступіла праблема захавання нацыі.* Рагойша.

*ПЛАНЕ* ● **НА ДРУГ`ІМ (З`АДНІМ) ПЛ`АНЕ**. *Функц. не зам. У ролі састаўн. імен. вык. (часцей без звязкі) пры дзейн. са знач. асобы, канкр. і абстр. прадмета.* Менш важны, другарадны, нязначны. *Хоць дзеці ў гэтай гісторыі на другім плане, нельга не адчуць, наколькі яны абдзеленыя цеплынёй бацькоўскага дома, нікому не патрэбныя.* Макаловіч. *Аксеня цяпер на заднім плане. Яе месца заняла Васіліна.* Хадкевіч. *Я для старшыні нуль. Да майго голасу ён не*

*прыслухоўваецца. Патрэба людзей у яго на заднім плане.* «Звязда».

**НА П`ЕРШЫМ (ПЯР`ЭДНІМ) ПЛ`АНЕ.** *Функц. не зам. У ролі састаўн. імен. вык. (часцей без звязкі) пры дзейн. са знач. асобы, канкр. і абстр. прадмета.* Важнейшы за ўсё, вышэй за ўсё. *У журналіста ці не на першым плане павінна быць пачуццё такту.* Кажадуб. *Калі вяртаўся [Валера з турмы], падоўгу нідзе не затрымліваўся: на першым плане была не работа, а гарэлка.* В.Ткачоў. *Як была наша школа савецкай, так ёю і засталася. Паказуха на першым плане.* «ЛіМ». *А дырэктар-аўтамат – на пярэднім самым плане.* Крапіва.

*ПЛАСЦІНКУ* ● **МЯНЯЦЬ ПЛАСЦІНКУ.** Гл. мяняць.

*ПЛАЦІЦЬ* ● **ПЛАЦ`ІЦЬ (АДПЛ`АЧВАЦЬ) Т`ОЙ ЖА МАН`ЕТАЙ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адказваць тым самым, такімі ж адносінамі, учынкамі і пад. **Сін**.: не заставацца ў даўгу. *Баравік-Залеўскі, які плаціў Лыкавязаву той жа манетай непрыязнасці, ціха шапнуў аднаму з членаў камісіі: — Стары, каго хаваюць: Лазара Богшу ці Кірылу Лыкавязава?* Асіпенка. *[Тальянец:] Гітлераўцы.. не любілі нас, здзекліва звалі «спагецці» — «макароннікі». Мы плацілі ім той жа манетай...* Краўчанка. **АДПЛАЦІЦЬ ТОЙ ЖА МАНЕТАЙ** *каму. Зак. [Бажашуткава:] Таварыш Салавейчык вымушаны быў адплаціць вам той жа манетай.* Матукоўскі.

*ПЛАЧ* ● **Х`ОЦЬ <Т`Ы> ПЛ`АЧ.** *Толькі ў гэтай форме. Акал. ці ў знач. вык. Разм.* Склалася цяжкае, бязвыхаднае становішча. Выказванне адчаю, бяссілля. **Сін**.: хоць воўкам вый; хоць рэпку спявай; хоць <ты> гвалт крычы; хоць ты макам садзіся. *Ад'ехалі так мо яны з кіламетраў якіх дзесяць (воз цяжкі), дык канюк і прыстаў. Хоць плач! Хоць гвалт крычы, ды бяда, што не паможа.* Чорны. *Запісаўся ў спрэчкі Драч. Сам з сабою згаварыцца ён не можа, хоць ты плач.* Скрыпка.

*ПЛАЧА* ● **АСІНА ПЛАЧА** *па кім.* Гл. асіна.

**ВІСЕЛЬНЯ ПЛАЧА** *па кім.* Гл. віселььня.
**ВЯРОЎКА ПЛАЧА** *па кім.* Гл. вяроўка.
**ТУРМА ПЛАЧА** *па кім.* Гл. турма.

*ПЛАШЧА* ● **РЫЦАР ПЛАШЧА І КІНЖАЛА.** Гл. рыцар.

*ПЛЕМЕНІ* ● **БЕЗ РОДУ І <БЕЗ> ПЛЕМЕНІ.** Гл. роду.

**ІВАН БЕЗ РОДУ І ПЛЕМЕНІ.** Гл. іван.
**НІ РОДУ НІ ПЛЕМЕНІ.** Гл. роду.

*ПЛЕМЯ* ● **НІ РОДУ НІ ПЛЕМЯ.** Гл. роду.

*ПЛЕСЦІ* ● **ПЛ`ЕСЦІ КАШАЛ`І** *<каму, пра каго, пра што>. Незак. Разм.*

*Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць абы-што, выдумваць. **Сін**.: араць дарогі; біць язык аб зубы (у 2 знач.); блынды правіць; гарадзіць плот; званіць у <разбіты> лапаць; круціць вала <за хвост> (у 2 знач.); ліць ваду; мазоліць язык; малоць языком (у 1 знач.); малоць не падсяваючы; мянціць языком; пераліваць з пустога ў парожняе (у 2 знач.); плесці кашалі з лапцямі; плесці лапці; пляскаць языком; разводзіць антымоніі; разводзіць тары-бары; тары-бары <растабары> (у 2 знач.); таўчы ваду ў ступе (у 2 знач.); тачыць лясы <*з кім*>; травіць баланду (у 1 знач.); трапаць языком; часаць язык (у 1 знач.); часаць языком. *[Бондар:] У цябе яшчэ жыве дух аднаасобніка. [Анішчук:] Эт, пляце кашалі.* Гурскі. *Гавары хутчэй, хто такая і куды ідзеш. Толькі пра Заграддзе кашалі не пляці — я там усіх ведаю.* Місько.

**ПЛ`ЕСЦІ КАШАЛ`І З ЛАПЦ`ЯМІ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць абы-што, выдумваць. **Сін**.: араць дарогі; біць язык аб зубы (у 2 знач.); блынды правіць; гарадзіць плот <*каму*>; званіць у <разбіты> лапаць; круціць вала <за хвост> (у 2 знач.); ліць ваду; мазоліць язык; малоць языком (у 1 знач.); малоць не падсяваючы; мянціць языком; пераліваць з пустога ў парожняе (у 2 знач.); плесці кашалі <*каму, пра каго, пра што*>; плесці лапці; пляскаць языком; разводзіць антымоніі; разводзіць тары-бары; тары-бары <растабары> (у 2 знач.); таўчы ваду ў ступе (у 2 знач.); тачыць лясы <*з кім*>; травіць баланду (у 1 знач.); трапаць языком; часаць язык (у 1 знач.); часаць языком. *—Жонка цяжарная, а ён невядома куды папёрся... —Можа, другую завёў, таму і не паказваецца. — Спыніце плесці кашалі з лапцямі, — не вытрымала Алёнка.* Гурскі. *Ты яму верыш? Чарку выпіў на дурніцу і пляце кашалі з лапцямі.* А.Жук.

**ПЛ`ЕСЦІ Л`АПЦІ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць абы-што, выдумляць. **Сін**.: араць дарогі; біць язык аб зубы (у 2 знач.); блынды правіць; гарадзіць плот <*каму*>; званіць у <разбіты> лапаць; круціць вала <за хвост> (у 2 знач.); ліць ваду; мазоліць язык; малоць языком (у 1 знач.); малоць не падсяваючы; мянціць языком; пераліваць з пустога ў парожняе (у 2 знач.); плесці кашалі <*каму, пра што, пра каго*>; плесці кашалі з лапцямі; пляскаць языком; разводзіць антымоніі; разводзіць тары-бары; тары-бары <растабары> (у 2 знач.); таўчы ваду ў ступе (у 2 знач.); тачыць лясы <*з кім*>; травіць баланду (у 1 знач.); трапаць языком; часаць язык (у 1 знач.); часаць языком. *—І як яшчэ чалавека да чалавека цягне... —А годзе вам лапці плесці: цягне ды цягне...* Лынькоў. *—Базы няма. Напэўна, перабазіравалася ў іншае месца... —Называецца, гарадзілі*

*агарод. Плялі лапці, — прабурчэў Лукашоў.* Быкаў.

*ПЛЕЧ* ● **ЗВАЛЬВАЦЦА З ПЛЕЧ** *чыіх, каго.* Гл. звальвацца.

**ЗВАЛЬВАЦЬ З ПЛЕЧ** *што.* Гл. звальваць.

**З ПЛЕЧ ДАЛОЎ.** Гл далоў.

**З ПЛ`ЕЧ ДЫ Ў П`ЕЧ.** *Акал. Разм. Неадабр.* **1**. Без асаблівых запасаў, не клапоцячыся пра заўтра, бестурботна (жыць). *Рос [Марцін] у вялікай сям'і, меў многа братоў і сясцёр. Жылі — з плеч ды ў печ. І нічога, агрэбаліся.* Варановіч. *Лявону стала прыкра на сябе, што ніколі ў яго не хапае часу, каб, як людзі, нацягаць droў на зіму, нарэзаць, насекчы. Заўсёды так з плеч ды ў печ.* Кудравец. *Я за разумную запаслівасць, як, зрэшты, і за разумную бесклапотнасць, бестурботнасць, што ў народзе вызначаецца вядомай прымаўкай: «Жыве — з плеч ды ў печ».* «ЛіМ».

**2**. Абы-як, нядбайна (рабіць). **Сін**.: абы дзень адбыць; абы дзень да вечара (у 1 знач.); абы з рук; з пятага на дзесятае (у 2 знач.); па канец рук; праз пятае ў дзесятае (у 2 знач.), пусці павалюся (у 2 знач.); спусціўшы рукавы; сяк-так (у 2 знач.); сяк-так накасяк <абы не па-людску>; цапам-лапам; цапу-лапу; цераз пень калоду (у 1 знач.); цяп ды ляп. **Ант**.: душы паслухаючы; з аганьком; закасаўшы рукавы; не пакладаючы рук. *Усе маўчалі, і толькі Вакула пачаў гаварыць, што вось бяруцца за справу людзі, якія сякеру не могуць у руках трымаць, а потым сорам на ўсю брыгаду... Але ж сам рабіў з плеч ды ў печ...* Радкевіч.

**3**. Зараз жа, неадкладна, не задумваючыся (рабіць што-н.). **Сін**.: доўга не думаючы; з месца ў кар'ер. *Чытаючы некаторыя творы, думаеш, што аўтар толькі пагартаў зборнік прыказак і прымавак і адразу — з плеч ды ў печ — перадаў іх сваім героям.* Шкраба.

*ПЛЕЧЫ* ● **<БРАЦЬ> НОГІ НА ПЛЕЧЫ.** Гл. браць.

**ЗВАЛЬВАЦЦА НА ПЛЕЧЫ** *чые, каму.* Гл. звальвацца.

**КЛАСЦІСЯ НА ПЛЕЧЫ** *чые, каго, каму.* Гл. класціся.

**ПЕРАКЛАДАЦЬ НА ПЛЕЧЫ** *каго, чые, каму.* Гл. перакладаць.

**РАСПРАЎЛЯЦЬ ПЛЕЧЫ.** Гл. распраўляць.

**УЗВАЛЬВАЦЬ НА ПЛЕЧЫ** *чые, каго, што.* Гл. узвальваць.

**УЗВАЛЬВАЦЬ САБЕ НА ПЛЕЧЫ** *што.* Гл. узвальваць.

**УЗВАЛЬВАЦЬ НА СВАЕ ПЛЕЧЫ** *што.* Гл. узвальваць.

**ХАВАЦЦА ЗА ПЛЕЧЫ** *чые, каго.* Гл. хавацца.

*ПЛЕШ* ● **ПЛЕШ ПЕРАЯДАЦЬ** *каму.* Гл. пераядаць.

*ПЛЕШЧАЦЦА* ● **НЕ КУЕЦЦА, А ПЛЕШЧАЦЦА** *ў каго.* Гл. куецца.

**НІ КУЕЦЦА <І> НІ ПЛЕШЧАЦЦА** *ў каго, дзе.* Гл. куецца.

*ПЛОД* ● **ЗАБАР`ОНЕНЫ ПЛ`ОД.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск.*

*Функц. не зам.* Што-н. прываблівае, спакусліваe, але недазволенае. *Тут, у Чэхава, зусім інакш, чым ва ўсіх, каго чытаў перад гэтым, была закранута тая слодыч «забароненага плода»; што хвалюе нас у юнацтве непаўторна па сіле і свежасці ўспрымання.* Брыль. *Грамадзянін Міхалёў пакаштаваў забаронены плод, які аказаўся для яго атрутным...* Масарэнка.

*ПЛОДУ* ● **БЕЗ РОДУ І БЕЗ ПЛОДУ.** Гл. роду.

**НІ РОДУ НІ ПЛОДУ.** Гл. роду.

*ПЛОТ* ● **ГАРАДЗІЦЬ ПЛОТ** <*каму*>. Гл. гарадзіць.

**<ХОЦЬ> ПЛОТ ГАРАДЗІ** *кім, каго.* Гл. гарадзі.

**ЯК НА ПЛОТ ВЕШАЦЬ.** Гл. вешаць.

**ЯК СЛЯПЫ ЗА ПЛОТ** *трымацца.* Гл. сляпы.

*ПЛОТА* ● **ЯК П'ЯНЫ ДА ПЛОТА.** Гл. п'яны.

**ЯК СЛЯПЫ ДА ПЛОТА.** Гл. сляпы.

**ЯК СЛЯПЫ ПЛОТА** *трымацца.* Гл. сляпы.

*ПЛОЦЬ* ● **ПЛ`ОЦЬ АД ПЛ`ОЦІ** *чыёй, каго. Мн. не ўжыв. Часцей вык. Кніжн. Узнёсл.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Роднае дзіця. Пра кроўную роднасць. **Сін**.: косць ад косці (у 1 знач.); кроў ад крыві (у 1 знач.); плоць і кроў (у 1 знач.). *Язэпу ўпершыню да ламаты ў скронях стала шкада гэтага дзіцяці, ягонага, кроў ад крыві, плоць ад плоці.* Асіпенка.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Спараджэнне, дзецішча каго-н. ці чаго-н. Пра ідэйную роднасць. **Сін**.: косць ад косці (у 2 знач.); кроў ад крыві (у 2 знач.); плоць і кроў (у 2 знач.). *[Галіна:] Не, я не ўцяку адсюль. Яны [сяляне] простыя, нават грубыя, але ж ці не плоць я ад плоці іхняй?* Грамыка. *Адась Гушка перш за ўсё — плоць ад плоці працоўнай масы.* Адамовіч.

**ПЛ`ОЦЬ І КР`ОЎ** *чыя, каго. Мн. не ўжыв. Часцей вык. Кніжн. Узнёсл.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Роднае дзіця. Пра кроўную роднасць. **Сін**.: косць ад косці (у 1 знач.); кроў ад крыві (у 1 знач.); плоць ад плоці (у 1 знач.). *Ян шкадаваў сына не толькі як роднага чалавека — сваю плоць і кроў, — але і як работніка, без якога занепадзе гаспадарка.* Чарнышэвіч. *Толькі што ён [Прахор] біўся з родным сынам, біўся са сваёй крывёю і плоццю, можна сказаць, з самім сабой.* Дайнека.

**2.** Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Спараджэнне, дзецішча каго-н. ці чаго-н. Пра ідэйную роднасць. **Сін**.: косць ад косці (у 2 знач.); кроў ад крыві (у 2 знач.); плоць ад плоці (у 2 знач.). *Гэтыя недахопы зыходзяць ад вашых таварышаў, ад людзей вашай плоці і крыві.* «Маладосць».

**УВАХОДЗІЦЬ У ПЛОЦЬ І КРОЎ** *каго, чаго.* Гл. уваходзіць.

*ПЛУГ* ● **МОЖНА Ў ПЛУГ ЗАПРАГАЦЬ** *каго.* Гл. можна.

**ХОЦЬ У ПЛУГ ЗАПРАГАЙ** *каго.* Гл. запрагай.

*ПЛЫВЕ* ● *Чыя, якая* **КРОЎ ПЛЫВЕ Ў ЖЫЛАХ** *чыіх, каго.* Гл. кроў.

**ПЛЫВ`Е Ў Р`УКІ** *што. Незак. Цяп. і пр.; адз. і мн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. ці канкр. прадмета. Вельмі лёгка дастаецца. **Сін**.: ідзе ў рукі *што*; просіцца ў рукі *што. Хіба ў яго [бацькі] было б такое багацце, каб ён растыкаў усё, што плыве ў рукі? Хто капейкі не беражэ, таго рубель баіцца.* Лобан. *Пасля сканчэння кантрабанднай справы, калі тысячы ўжо не плылі ў рукі.., Крушынскі пачаў ашчадна абыходзіцца з грашмі і гаспадарчым дабром.* Бядуля. *Ціхі ведаў, як яны патрэбны партызанам — медыкаменты былі для іх вечнай праблемай. І вось яны самі плывуць у рукі.* Шахавец.

*ПЛЫВУ* ● **НА ПЛЫВ`У**. *Акал. Разм.* У ацалелым стане (быць, утрымліваць, знаходзіцца, пратрымацца і пад.). *Што гэта за рынак і з чым яго «ядуць», як у такіх незвычайна складаных умовах і калгас утрымаць на плыву?..* Гардзей. *Цяпер у раёне толькі 30 працэнтаў гаспадарак неяк зводзяць канцы з канцамі, яшчэ знаходзяцца на плыву.* «Звязда». *У часіну людскога прыбою кожны хоча быць на плыву.* Барадулін. *Пратрымаліся гадок-другі на плыву, пратрымаемся, дасць бог, і яшчэ колькі.* «ЛіМ».

*ПЛЫВУЦЬ* ● **КРУГІ Ў ВАЧАХ ПЛЫВУЦЬ** *у каго.* Гл. кругі.

*ПЛЫНЬ* ● **ПАДВ`ОДНАЯ ПЛ`ЫНЬ** *чаго. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Што-н. прыхаванае, не адразу бачнае. *Прафесія аўтарамізніка і раней сутыкала мяне з той падводнай плынню жыцця, якая прыносіць людзям пэўнага службовага становішча пэўныя матэрыяльныя перавагі і якая, у чым я быў абсалютна ўпэўнены, мае часовы характар...* Радкевіч. *Амаль усе вершы.. [паэта] маюць гэтую падводную плынь трагізму.* «Маладосць».

*ПЛЫСЦІ* ● **ПЛЫСЦ`І ЗА ВАД`ОЙ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пасіўнічаць, прыстасоўваючыся да абставін. **Сін.**: плысці па цячэнні. **Ант.**: плысці супраць цячэння. *Сесія пачалася, таму можна было або перанесці яе для Магды на восень, або здаць зараз некалькі прадметаў – якія паспееца падрыхтаваць. Але Магдаліна заўпарцілася. Хопіць за вадой плысці. І заявіла, што здасць усе іспыты.* Рублеўская. [Параўн.: *Янкоўскі,* с. 184: ісці за вадой; ва ўкр. м.: пливти, куды вода несе.]

**ПЛЫСЦ`І (ПЛ`ЫЦЬ) МІЖ П`АЛЬЦАЎ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв.

пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Хутка і непрыкметна расходавацца, траціцца. Пра грошы, багацце і пад. **ПАПЛЫСЦІ (ПАПЛЫЦЬ) МІЖ ПАЛЬЦАЎ.** *Зак. Кулак, кажуць на мяне нашы засцянкоўцы. Чорт вас бяры, кажу: хоць гаршком заві, адно ў печ не стаўляй. У кулаку, кажу, можа што-небудзь затрымаецца, а растапырыш пальцы — усё расплывецца, між пальцаў паплыве.* Крапіва.

**ПЛЫСЦ`І (ПЛ`ЫЦЬ) ПА ЦЯЧ`ЭННІ.** *Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дзейнічаць пасіўна, вяла, прыстасоўваючыся да абставін, не выказваючы супраціўлення. **Сін**.: плысці за вадой. **Ант**.: плысці супраць цячэння. *«Я нешта ўпусціў у жыцці, прывык плысці па цячэнні, — думаў Дымаў. — Так лягчэй, спакайней...* Дзятлаў. *Баяўся ён [Апанас] мясцовых аўтарытэтаў. Таму пачаў «плысці па цячэнні».* Пестрак. *Я ж кінула змагацца за жыццё, жыла безадказна. Так, плыла па цячэнні, што будзе, няхай будзе.* Марчук.

**ПЛЫСЦ`І (ПЛ`ЫЦЬ) С`УПРАЦЬ ЦЯЧ`ЭННЯ.** *Незак. Функц. не зам. Часцей адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці зборн. прадмета. Дзейнічаць наперакор усяму. **Ант**.: плысці за вадой; плысці па цячэнні. *«Сярод нас, — гаварыў прадстаўнік Мадагаскара, — існуе група краін, якія плывуць супраць цячэння...»* Вярцінскі. *— Трэба прымусіць урады скончыць вайну, а не захочуць — цераз іх галовы заключыць мір... — Супраць цячэння не так лёгка плысці!.. — уздыхнуў Крыўдзін. — Аднак прыйдзецца.* Гурскі.

*ПЛЫЦЬ* ● **ПЛЫЦЬ МІЖ ПАЛЬЦАЎ.** Гл. плысці.

**ПЛЫЦЬ ПА ЦЯЧЭННІ.** Гл. плысці.

**ПЛЫЦЬ СУПРАЦЬ ЦЯЧЭННЯ.** Гл. плысці.

*ПЛЮНУЦЬ* ● **ПЛЮНУЦЬ НЕКУДЫ.** Гл. некуды.

**ПЛ`ЮНУЦЬ У В`ОЧЫ (ТВ`АР)** *каму. Зак. Аднакр. да* пляваць у вочы (твар) *каму. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выявіць у рэзкай форме знявагу, пагарду і пад. да каго-н. *Каб сказаў яму хто-небудзь, што кожнае каліва з Галілеевага сметніка мае сваё адмысловае прызначэнне.., ён бы [Пацяроб] плюнуў таму ў вочы і назваў бы яго таксама вар'ятам.* Зарэцкі. *[Карнейчык:] Няхай там і была якая-небудзь памылка, дык ці ж праз гэта ўжо і ў твар плюнуць чалавеку?* Крапіва.

**ПЛЮНУЦЬ У ДУШУ** каму. Гл. пляваць.

**Р`АЗ ПЛ`ЮНУЦЬ** <*каму, для каго*>. *Часцей у безас. ужыв. Праст. Часцей ужыв. у спалучэнні з інф.* Вельмі лёгка, не патрабуе ніякіх намаганняў (зрабіць што-н.). **Сін**.: за адну шчаку; прасцей паранай

рэпы; прасцей простага; як босаму разуцца; як плюнуць. *Шэсцьдзесят вёрст фронтам прайсці — не раз плюнуць.* Галавач. *[Шыдлоўскі:] Дык гэта ж для мяне раз плюнуць!* Козел. *Білет да Бабруйска дастанем. А перайсці на той бок — раз плюнуць.* Грахоўскі.

**ЯК ПЛ`ЮНУЦЬ.** *Часцей акал. Прает.* Вельмі проста і лёгка, без асаблівых намаганняў (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін**.: за адну шчаку; прасцей паранай рэпы; прасцей простага; раз плюнуць <*каму, для каго*>; як босаму разуцца. *[Сёмка:] Я сваю паэму ў трыста радкоў за вечар напісаў як плюнуць...* Каваль. *[Няслаўскі:] Гэта такое мудраванне, бачыце: слабы, не маючы моцы змагацца з дужым, моцным, адным, як плюнуць абрывае жыццё яго. Тут такая логіка.* Мурашка. *— А вы, — кажа ён, — коську аўсом накорміце, дык яна вам гэты корч як плюнуць вырве.* Брыль.

*ПЛЮСАМ* ● **НА ПЯЦЬ З ПЛЮСАМ.** Гл. пяць.

*ПЛЮХНУЦЦА* ● **ПЛЮХНУЦЦА <ТВАРАМ> У ЛУЖЫНУ.** Гл. пляснуцца.

*ПЛЯВАЦЬ* ● **ПЛЯВ`АЦЬ У В`ОЧЫ (У ТВ`АР)** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рэзка пагарджаць кім-н. *Навошта гэтае імкненне пусціць у грунт сваё карэнне? Але б вы самі спрабавалі, калі б у вочы вам плявалі і вас агіднаю знявагай па сэрцы білі б, як той шлягай!* Колас. *Вось толькі вернецца аднекуль з камандзіроўкі сакратар... «Не, я цярпець не стану здзеку, памру — не дам пляваць у твар!»* Гілевіч.

**ПЛЯВ`АЦЬ У ДУШ`У** *каму. Незак. Разм. Пагард.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Абражаць самае дарагое, запаветнае ў кім-н. *— Бюракраты не толькі губяць нашу справу, — гарачыўся Вальцоў. — Яны плююць у душу. Ганьбяць самае лепшае, што ёсць у нас!* Новікаў. **ПЛЮНУЦЬ (НАПЛЯВАЦЬ) У ДУШУ** *каму. Зак. Я вельмі рады развітанню, але цяжар яшчэ нашу, — хаджу атручаны дазвання, бы нехта плюнуў у душу.* Броўка. *Калі нарэшце ўсе пайшлі з хаты, Андрэй адчуў такую млосць, нібы яму напльвалі ў душу.* Чарнышэвіч.

**ПЛЯВ`АЦЬ С`УПРАЦЬ (СУПР`ОЦЬ) В`ЕТРУ.** *Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Рабіць што-н. сабе на шкоду. *«Ці варта пляваць супраць ветру», — такія словы хацелася выказаць Віктару Сяргеевічу нецярплівому Лазаруку.* Марчук. *Кунцэвіч.. прыняўся за павучанні: — Ну, нашто табе пляваць супроць ветру?* Лазуркін.

**ПЛЯВ`АЦЬ У СТ`ОЛЬ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зусім нічога не рабіць, гультаяваць. **Сін**.: абіваць бакі (у 2 знач.); адлежваць бакі (у 2 знач.); акалочваць (акалачваць) грушы <з вербаў>; біць байды; біць бібікі; біць лынды (у 1 знач.); біць тылылы;

брынды біць; валяць дурня (у 2 знач.); вераб'ям дулі паказваць; ганяць сабак <*па чым*>; корчыць гультая; лічыць варон (у 2 знач.); ляжаць на баку; сабакам сена касіць (у 1 знач.); сачка давіць. *Пятро лічыў, што ўсюды галоўнае — праца, і не для таго ён пяць гадоў сушыў мазгі, каб пляваць у столь.* Рубанаў.

**ПЛЯВАЦЬ ХАЧУ** *на каго, на што.* Гл. хачу.

*ПЛЯМА* ● **Б`ЕЛАЯ ПЛ`ЯМА.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* **1**. <*на чым*>. Недаследаваны ці маладаследаваны раён, край. *Пазнаёмцеся. Генадзь Залужны, майстар скараснога бурэння і скарасной плаўкі, ён жа першаадкрывальнік белых плям на крутых адгор'ях Гіндукуша...* Радкевіч.

**2.** Нявырашанае пытанне, нераспрацаваная праблема. *Мы, пісьменнікі, не асвятлілі гісторыю мастацкай літаратуры. Гэта белая пляма.* Скрыган. *Вельмі ж скупыя звесткі пра Багушэвіча-чалавека. Пэўныя перыяды ягонага жыцця — белыя плямы.* «ЛіМ».

**РАДЗ`ІМАЯ ПЛ`ЯМА** *чаго. Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Недахоп, які з'яўляецца перажыткам чаго-н. *Абарчук бачыў ліслівасць, вераломства, пакору, жорсткасць. Ён называў гэтыя рысы радзімымі плямамі капіталізму.* «Звязда». *[Ларыса:] Хоць я і сама вінавата. Не дагледзела. Хутчэй не разгледзела. Сястра яна ўсё ж мне. Ды і не яна вінавата, што такой вырасла... з радзімымі плямамі. Шкада мне яе.* Асіпенка.

*ПЛЯСКАЦЬ* ● **ПЛЯСК`АЦЬ (ПЛ`ЯСКАЦЬ) ЯЗЫК`ОМ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць упустую, пустасловіць. **Сін**.: араць дарогі; біць язык аб зубы (у 2 знач.); блынды правіць; гарадзіць плот <*каму*>; званіць у <разбіты> лапаць; круціць вала <за хвост> (у 2 знач.); ліць ваду; мазоліць язык; малоць языком (у 1 знач.); малоць не падсяваючы; мянціць языком; пераліваць з пустога ў парожняе (у 2 знач.); плесці кашалі <*каму, пра каго, пра што*>; плесці кашалі з лапцямі; плесці лапці; разводзіць антымоніі; разводзіць тары-бары; тары-бары <растабары> (у 2 знач.); таўчы ваду ў ступе (у 2 знач.); тачыць лясы <*з кім*>; травіць баланду (у 1 знач.); трапаць языком; часаць язык (у 1 знач.); часаць языком. *Век, колькі ты жывеш, усё плешчаш языком... Ты ўжо і дарогі даўно пабудаваў, і масты вунь над рэчкай паклаў. Усё будуеш, а як не было нідзе нічога, так і цяпер няма...* Пестрак. *Яўхім кінуў позіркам на Ганну, буркнуў строга Ларывону: — І ты — языком не пляскай!* Мележ. **ПЛЯСНУЦЬ ЯЗЫКОМ.** *Зак. Што падумае, што плясне сваім языком круцёлка Антаніна, на якой «гарыць скура» і якая ўсіх мерае на свой капыл?* Міську.

*ПЛЯСНУЦЦА* ● **ПЛ`ЯСНУЦЦА (ПЛ`ЮХНУЦЦА, Л`ЯСНУЦЦА) <ТВ`АРАМ> У Л`УЖЫНУ (У ГР`АЗЬ).** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Асароміцца, паказаць сябе з найгоршага боку ў чым-н. **Сін**.: падаць <тварам> у гразь. **Ант**.: не ўдарыць тварам у гразь. *[Ціхан:] Што, і ў вас конкурс? [Савось:] Конкурс не конкурс, а падвучыцца трэба. Каму ахвота перад разумным чалавекам тварам у лужыну пляснуцца?* Петрашкевіч. *Радуйся, Гаўрыла Мітрафанавіч! Цвёрдая рука Сцяпана Андрыянавіча не дасць табе пляснуцца тварам у лужыну.* Пянкрат. *Па ўсім было відаць, што прыёму ён [Я.Колас] надаваў важнае значэнне — як-ніяк госці завіталі да яго... І тут нельга было, як кажуць, пляснуцца ў гразь.* Бачыла. *Пры ўсёй сваёй самаўпэўненасці ён [Троцкі] плюхнецца ў лужыну і мусіць вызваліць пост наркома па замежных справах.* Шамякін. *«Можа, ты, даражэнькі мой, хоць раз ляснешся тварам у гразь і тады чалавекам будзеш. От жа пашанцавала», — зларадна думала Валя.* Чорны.

*ПЛЯСНУЦЬ* ● **ПЛЯСНУЦЬ ЯЗЫКОМ.** *Зак. да* **ПЛЯСКАЦЬ ЯЗЫКОМ.**

*ПЛЯЦЕНЬ* ● **НАВОДЗІЦЬ ЦЕНЬ НА ПЛЯЦЕНЬ.** Гл. наводзіць.

**ЯК НА ПЛЯЦЕНЬ ВЕШАЦЬ.** Гл. вешаць.

*ПЛЯЧА* ● **З ПЛЯЧ`А** *гаварыць, адказваць.* *Акал. Разм.* Адразу і занадта рэзка. *Штосьці хацела ім сказаці са ўсёй смеласці, з пляча, ды стрымалася дзяўча.* Колас. *Што ў цябе ёсць прынцыпы, гэта добра. Але не трэба так з пляча, адным узмахам...* Дзятлаў.

**З ЧУЖ`ОГА ПЛЯЧ`А.** *Азн. і вык. Разм.* Ужыв. пры наз. *касцюм, пінжак, паліто, шынель* і пад. Ужо ношаны кім-н. іншым і не падыходзіць памерам. *[Аляксей] доўга выгаворваў каменданту — пажылому з птушынымі вачыма і носам мужчыну ў ваенным шынялі з чужога пляча.* Карпаў. *Уваходзіць Шыпшынскі. На ім цывільнае паліто з чужога пляча, занадта кароткае, такія ж самыя штаны.* Кучар. *Усё ў яго [Андрэя Іванавіча] было з чужога пляча, гэта магло сказаць і дзіця.* Новікаў.

**ПЛЯЧО ДА ПЛЯЧА.** Гл. плячо.

**СЕКЧЫ З ПЛЯЧА.** Гл. секчы.

*ПЛЯЧАМІ* ● **ЗА ПЛЯЧ`АМІ (-`ЫМА)** *каго, у каго.* *Акал. Разм.* **1**. Ззаду, з тыльнага боку каго-н. (быць, ісці і пад.). **Сін**.: за спінай чыёй (у 1 знач.). *[Вінцэнты] перакідаўся з нагі на нагу і ішоў да лесу. За плячыма яго танула ў імгле вёска.* Чорны. *Ідучы з хаты і адчуваючы за плячыма ў сябе прыкрую, ліпучую прысутнасць Пацяроба, Сымон Карызна сам сабе дзіваваў: — Няўжо я мог плячо ў плячо працаваць з гэтым чалавекам?* Зарэцкі.

**2**. Зусім блізка, побач (стаяць, знаходзіцца і пад.). **Сін**.: адзін крок

*ад чаго да чаго*; за два крокі *ад каго, ад чаго*; не за гарамі (у 1 знач.); пад бокам (у 1 знач.); пад рукамі (у 2 знач.); пад рукой (у 2 знач.); пад <самым> носам *у каго, чыім, каго*; перад вачамі *<чыімі>*; перад носам <*каго, чыім*>; рукой падаць *да чаго. [Рыгор:] Спі, Данілка! Невядома, колькі ночак табе спаць засталося. Можа, смерць ужо ў цябе за плячыма стаіць.* Крапіва.

**3**. У мінулым (мець, быць і пад.). Пра перажытае, пражытае. **Сін**.: за спінай *чыёй* (у 2 знач.). *У многіх [з заходнебеларускіх пісьменнікаў] былі за плячамі турмы і этапныя дарогі.* Шкраба. *У спрэчку Міця не ўступае: хлопцы ведаюць за яго болей. Лішні клас, які маюць яны за плячамі, два лішнія, пражытыя імі гады — гэта цэлая эпоха.* Навуменка.

**4**. На ўтрыманні, пад апекай каго-н. (жыць, сядзець і пад.). **Сін**.: за галавой *чыёй*; за спінай *чыёй* (у 3 знач.); на руках *чыіх, у каго* (у 1 знач.); на шыі *ў каго, чыёй* (у 1 знач.); пад крылом *у каго, чыім, каго. — Адпачываю! — тлумачыў [Габрусь] суседзям. — Няма чаго валаводы валаводзіць, за плячыма сыноў магу цяпер адсапнуцца.* Бядуля.

**ЗА ПЛЯЧАМІ НЕ НАСІЦЬ** *што.* Гл. насіць.

**ПАЦІСКАЦЬ ПЛЯЧАМІ.** Гл. паціскаць.

**СТАЯЦЬ ЗА ПЛЯЧАМІ** *чыімі, каго.* Гл. стаяць.

*ПЛЯЧАХ* ● **ВІСЕЦЬ НА ПЛЯЧАХ.** Гл. вісець.

**ВЫНОСІЦЬ НА СВАІХ ПЛЯЧАХ** *што.* Гл. выносіць.

**<ЁСЦЬ> <СВАЯ> ГАЛАВА НА ПЛЯЧАХ** *у каго.* Гл. галава.

**КАСЫ САЖАНЬ У ПЛЯЧАХ.** Гл. сажань.

**ЛЯЖАЦЬ НА ПЛЯЧАХ** *чыіх, каго.* Гл. ляжаць.

**МЕЦЬ <СВАЮ> ГАЛАВУ НА ПЛЯЧАХ.** Гл. мець.

**НА ПЛЯЧ\`АХ** *каго, у каго. Акал. Разм.* Ідучы ўслед за адступаючым праціўнікам (уварвацца, уступіць і пад. куды-н.). *Імкліва атакаваўшы ворага, чырвонаармейцы на плячах праціўніка ўварваліся ў горад, і там адбыўся гарачы бой.* Гурскі.

**ТРЫМАЦЬ НА <СВАІХ> ПЛЯЧАХ.** Гл. трымаць.

*ПЛЯЧО* ● **ПАДСТАЎЛЯЦЬ ПЛЯЧО** *каму.* Гл. падстаўляць.

**ПЛЯЧ\`О К ПЛЯЧ\`У (ДА ПЛЯЧ\`А).** *Акал. Функц. не зам.* **1**. Зусім побач, у непасрэднай блізкасці, адзін каля аднаго (ісці, ехаць, стаяць, сядзець і пад.). **Сін**.: плячо ў плячо (у 1 знач.). *І мы не забудзем ніколі, суседзі мае, землякі, як роднаму ў хаце пісалі, сядзелі — плячо да пляча.* Бялевіч.

**2**. Разам, вельмі дружна, у цесным адзінстве (жыць, працаваць, змагацца і пад.). **Сін**.: плячо ў плячо (у 2 знач.); рука аб руку (у 2

знач.); рука ў руку (у 2 знач.). *Нам дружыць патрэбна між сабою і стаяць за мір — плячо к плячу, — сустракаць вас не на полі бою, а на фестывалях я хачу.* Смагаровіч. *Іх здружыла цяжкая франтавая дарога, па якой ішлі яны плячо да пляча вось ужо чацвёрты год.* Шашкоў.

**ПЛЯЧ`О Ў ПЛЯЧ`О.** *Акал. Функц. не зам.* **1**. Зусім побач, у непасрэднай блізкасці, адзін каля аднаго (ісці, ехаць, стаяць, сядзець і пад.). **Сін**.: плячо к плячу (у 1 знач.). А *як ужо пачне змяркацца і зоркі ў небе заміргаюць, пужаць іх страхі пачынаюць. Тады браты радком садзяцца, плячо ў плячо, але прызнацца, што страшна ім, ніхто не хоча.* Колас. *Ззаду за падводамі на поле ішлі Міхал з Грасыльдай, ішлі ўпобачкі, плячо ў плячо, гаманілі моцна — на ўвесь Земфонд — і размахвалі, размахвалі рукамі.* Пташнікаў.

**2**. Разам, вельмі дружна, у цесным адзінстве (жыць, працаваць, змагацца і пад.). **Сін**.: плячо к плячу (у 2 знач.); рука аб руку (у 2 знач.); рука ў руку (у 2 знач.). *Побач былі блізкія таварышы, з якімі плячо ў плячо праходзіў фронт, не было ні адзінокасці, ні адчування асуджанасці.* Каваль. *Амерыканцы помняць добра той час, калі Савецкі Саюз і ЗША выступалі адзіным фронтам супраць фашызму, нашы і амерыканскія салдаты ваявалі плячо ў плячо.* Сачанка.

**ЯЗЫК НА ПЛЯЧО.** Гл. язык.

*ПЛЯЧОМ* ● **ПАДПІРАЦЬ ПЛЯЧОМ** *каго.* Гл. падпіраць.

*ПЛЯЧУ* ● **ПЛЯЧО К ПЛЯЧУ.** Гл. плячо.

*ПЛЯЧЫ* ● **ПА ПЛЯЧ`Ы** *каму. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Даступны для выканання ці разумення; адпавядае чыім-н. здольнасцям, магчымасцям. *Я верыў, зараз мне ўсё па плячы.* Караткевіч. *Мне часам груз яе [памяці] не па плячы. Не знаю часам, як ёй памагчы.* Вярцінскі. — *Справа вельмі адказная, не кожнаму па плячы, — зазначыў Анатоль Аляксандравіч. — Падумайце...* «Полымя».

*ПЛЯЧЫМА* ● **ЯК У БОГА ЗА ПЛЯЧЫМА.** Гл. бога.

*ПЛЯЧЫСТЫ* ● **ПЛЯЧ`ЫСТЫ НА ЖЫВ`ОТ (НА П`УЗА).** *Разм. Іран.* **1.** *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прагны да яды, пражэрлівы, любіць многа есці. *Сала, масла, цукар, мёд гітлераўца вабяць: фрыц — плячысты на жывот і мастак паграбіць.* Крапіва. — А *ты не глядзі, што ён малы, — заступіўся за Алеся Васіль. — Ён жа на жывот плячысты...* Новікаў. *Шмыг узяў дзве смятаны, два гуляшы, два куфлі піва, разлічыўся каля касы. — Плячысты на жывот, — жартам, мусіць, сказаў начальнік цэха Мамалыга. — А рабіць не хоча.* Мыслівец. У *нашай вёсцы пра Пахома гаварылі, што ён дужа на*

*пуза плячысты.* Мяжэвіч.

**2.** *Азн. Разм. Іран.* Таўстапузы. *Лектар гаварыў, што ўсе негры як адзін хочуць прыехаць да нас жыць, але плячыстыя на жывот крывасмокі не пускаюць іх, вось і няма прасвету ў жабрацкім жыцці.* «Бел. думка».

*ПЛЯЧЭЙ* ● **ЗВАЛЬВАЦЬ З ПЛЯЧЭЙ** *што.* Гл. звальваць.

**З ПЛЯЧЭЙ ДАЛОЎ.** Гл. далоў.

**<ЯК> ГАРА З ПЛЯЧЭЙ <ЗВАЛІЛАСЯ>** *у каго, з чыіх.* Гл. гара.

**ЯК КАМЕНЬ З ПЛЯЧЭЙ ЗВАЛІЎСЯ** *ў каго.* Гл. камень.

*ПНЁМ* ● **ЦІ САВОЙ АБ ПЕНЬ ЦІ ПНЁМ АБ САВУ.** Гл. савой.

*ПНІ* ● **НА ПН`І.** *Акал. Разм.* **1**. Будучы нязрэзаным. Пра лес, дрэвы. **Сін**.: на корані (у 2 знач.). — А *гэтыя бярв[ёны] мне гаспадар даў на падруб. — Проста ў лесе даў, — засмяяўся Хама Хаміч, — на пні. І дурню ж відаць, што лес толькі сягоння спілаваны.* Корбан. *Тут мы і рашылі гняздо наша пашырыць — да хаты трохсценак прыставіць. Купілі некалькі сасонак на пні.* Пянкрат.

**2**. Будучы нязжатым, няскошаным. Пра збожжавыя расліны. **Сін**.: на корані (у 1 знач.). — *Ну, якая ўжо там грэчка! — брат малодшы кажа: — Ветрам выдзьме! Не паспеўшы, ўся на пні паляжа.* Колас. *Ты ж кажаш, ветру няма... Раса!.. Ці загарыцца жыта на пні?* Грамовіч.

*ПОВАДЗЕ* ● **ІСЦІ НА ПОВАДЗЕ** *ў каго, каго, чыім.* Гл. ісці.

**НА П`ОВАДЗЕ (НА ПАВАДК`У)** *у каго. Акал. Разм.* У поўнай залежнасці ад каго-н. сваімі паводзінамі, дзеяннямі. *Я думаю, будзе зручней сфармуляваць пункт абвесткі дня так: вывады камісіі парткантролю па расследаванні фактаў, прыведзеных у артыкуле Беразоўскага «На повадзе ў кулака».* Лобан.

*ПОВЕН* ● **ПОВЕН РОТ.** Гл. рот.

*ПОГЛЯД* ● **НА П`ЕРШЫ П`ОГЛЯД.** *Акал. Функц. не зам.* З першага ўражання. **Сін**.: з першага погляду (у 2 знач.); на першае вока. *Наогул гэты спосаб вырашэння пытання, які на першы погляд здаецца такім простым і рацыянальным, не ўлічвае таго, што мільёны людзей гавораць і пішуць іначай.* Крапіва. *Валатовіч хутка і іх уцягнуў у размову, на першы погляд звычайную, бытавую, пажартаўлівую размову, у якой пра справу гаварылася нібыта між іншым.* Шамякін.

**НА П`ОГЛЯД** *чый. У знач. пабочн, сл Функц. не зам.* Паводле меркавання, пераканання каго-н. Я *хацеў бы выказаць таксама некалькі думак, якія, на мой погляд, варты ўвагі.* Колас. *А старая, відавочна, радавалася ўсяму, што, на яе погляд, ішло к дабру...* Тычына. *[Радзевіч] становача ахарактарызаваў Дзевяценя, не*

*ўтаіўшы, і некаторых, на яго погляд, слабых бакоў: пэўная нерашучасць, боязь іншы раз узяць на сябе адказнасць...* Блакіт.

*ПОГЛЯДУ* ● **З П`ЕРШАГА П`ОГЛЯДУ (П`ОЗІРКУ).** *Акал. Функц. не зам.* **1**. Адразу ж. **Сін**.: няўзброеным вокам. *Творчае выкарыстанне фальклору ў паэзіі М.Танка мае самыя разнастайныя формы. У адных выпадках сляды гэтага выкарыстання бачым з першага погляду. У другіх яны выяўляюцца пасля спецыяльнага аналізу.* Шкраба. *З бакавых дзвярэй выйшаў на хвіліну, трэба думаць, дырэктар магазіна. Яго я не ведаў, але з першага позірку можна было вызначыць, што ён тут старажыл.* Шахавец.

**2**. Як на першае ўражанне. **Сін**.: на першае вока; на першы погляд. *Адна дробная з першага погляду рэч запыніла на сябе іх увагу. Яны ўбачылі ў лесе сляды чалавечых ног.* Колас.

**З ПУНКТУ ПОГЛЯДУ** *чыйго, каго, чаго.* Гл. пункту.

**ПУНКТ ПОГЛЯДУ.** Гл. пункт.

*ПОЕДАМ* ● **ЕСЦІ ПОЕДАМ** *каго.* Гл. есці.

*ПОЕЗД* ● **П`ОЕЗД (ЦЯГН`ІК) ПАЙШ`ОЎ (АДЫШ`ОЎ).** *У безас. ужыв. Разм. Іран.* Занадта позна, з вялікім спазненнем адбылося што-н. *Летась у раёне 17 службовых асоб кіраўнікоў былі пакараны за прыпіскі, безгаспадарлівасць. Правільна, вядома ж, пакараны, але поезд, як кажуць, пайшоў, справа ўжо зроблена, ці, дакладней, пацярпела.* «Звязда». *Каля Русецкай пакручваешся, — падколвае Клебановіч. — Хочаш злавіць за хвост жар-птушку. Не зловіш, брат. Наш з табой цягнік даўно адышоў.* Навуменка.

*ПОЗІРКУ* ● **З ПЕРШАГА ПОЗІРКУ.** Гл. погляду.

*ПОЗНА* ● **РАНА ЦІ ПОЗНА.** Гл. рана.

*ПОЗУ* ● **СТАНАВІЦЦА Ў ПОЗУ** *чыю, якую, чаго.* Гл. станавіцца.

*ПОЛ* ● **М`ОЦНЫ (Д`УЖЫ) П`ОЛ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Часта жарт.* Мужчыны. **Ант**.: прыгожы пол; слабы пол. *Чакаць, пакуль «моцны пол» зверне на цябе ўвагу, не хацелася.* Дайнека. *Першыя крокі рэформы засведчылі, што «моцны пол» пачынае пераглядаць свае адносіны да прафесіі настаўніка.* «Настаўн. газ.» *Кажам: — Здрабнела задужа дужага полу палова. Цесна, няпроста за мужам у свеце свабодным, новым.* Каржанеўская.

**ПРЫГ`ОЖЫ П`ОЛ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Жанчыны. **Сін**.: слабы пол; цудоўны пол. **Ант**.: моцны пол. *Вытлумачыць разумнымі прычынамі Мікалаевы перамогі над прыгожым полам немагчыма.* Навуменка. *У кампаніі на паўсотню чалавек ніводнай жанчыны. Вячоркі без прыгожага полу?* «Полымя».

**СЛ`АБЫ ПОЛ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл ск. Разм. Жарт.* Жанчыны. **Сін**.: прыгожы пол; цудоўны пол. **Ант**.: моцны пол. *[Юзік] адшчоўкнуў ключыкам куфэрак і тут жа («ахні, слабы пол!») кулёк не нейкіх там цукерак, а «мішак» высыпаў на стол.* Гілевіч. — *Ну, а хто сёння возьме мяне пад сваю ахову! Я ўсё ж такі слабы пол, — сказала [Зінка] і засмяялася.* «Маладосць».

**ЦУД`ОЎНЫ П`ОЛ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Жанчыны. **Сін.:** прыгожы пол; слабы пол. **Ант**.: моцны пол. *Кажучы словамі Маркса, грамадскі прагрэс можа быць дакладна вымераны па грамадскім становішчы цудоўнага полу.* Вярцінскі.

*ПОЛЕ* ● **ВЫВОДЗЩЬ У ПОЛЕ** *каго.* Гл. выводзіць.

**ЗАЙЦЫ ПОЛЕ ГНОЯЦЬ** *у каго, каму.* Гл. зайцы.

**ЗЯЛ`ЁНАЕ П`ОЛЕ.** *Мн. не ўжыв. Устар. У ролі розных чл. ск. Разм.* Стол для гульні ў карты. *Маладыя настаўнікі выходзілі з Панямоні. Змрок закрываў змучаныя, бледныя твары: дарога, бяссонныя ночы, згрызоты і няўдачы на «зялёным полі» адбілі на іх свае пячаці.* Колас.

**НЕ ПОЛЕ НАСЕЯНА** *каго.* Гл. насеяна.

**П`ОЛЕ ЗР`ОКУ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск.* **1**. *Функц. не зам.* Прастора, якая акідваецца вокам. *Разведчыкі крочаць далей. Тым часам з поля зроку знікла гравійка.* Навуменка. *За некалькі секунд, пакуль чалавек быў у полі зроку, я так дакладна яго разгледзеў, што на цёмным і круглым твары ўбачыў кожную маршчынку.* Карпюк.

**2**. *каго, чаго, чыйго. Кніжн.* Кола праблем, інтарэсаў, клопатаў і пад. У *поле зроку празаіка ўсё шырэй уваходзяць такія паняцці, як «час», пасляваенныя цяжкасці, «эпоха НТР», «сярэдзіна дваццатага стагоддзя».* Тычына. *З-за адсутнасці належнага кантролю асобныя выкладчыкі бачаць сваю задачу толькі ў навучанні студэнтаў, а пытанні выхавання, фарміравання асобы будучага педагога знікаюць з поля іх зроку.* «Нар. асвета».

*ПОЛІ* ● **АБСЕВАК У ПОЛІ.** Гл. абсевак.

**ЛАВІ ВЕЦЕР У ПОЛІ.** Гл. лаві.

**ШУКАЙ ВЕТРУ Ў ПОЛІ** <*калі*>. Гл. шукай.

**ЯК У ПОЛІ ВЕЦЕР.** Гл. вецер.

*ПОЛІЎКУ* ● **ЗА САЧАВ`ІЧНУЮ П`ОЛІЎКУ** *прадаваць, прадацца* і пад. *Акал. Кніжн.* З-за дробязнай выгады. *На свяшчэнную вайну паднялася ўся краіна. Толькі асобныя вылюдкі, брыдкія і подлыя істоты, прадаліся ворагу за сачавічную поліўку...* Новікаў. *Калі ты за сачавічную поліўку будзеш прадаваць свой край, я ў труне перавярнуся і пракляну цябе навекі.* Гурскі.

*ПОЛЫМЕМ* ● **ГАРЭЦЬ СІНІМ ПОЛЫМЕМ.** Гл. гарэць.

*ПОЛЫМЯ* ● **З АГНЮ ДЫ Ў ПОЛЫМЯ.** Гл. агню.

*ПОЛЯ* ● **АДНАГО ПОЛЯ ЯГАДА.** Гл. ягада.

**ЗВОДЗІЦЬ З ПОЛЯ** *каго.* Гл. зводзіць.

**НЕ НАШАГА ПОЛЯ ЯГАДА.** Гл. ягада.

**НІ З ПУШЧЫ НІ З ПОЛЯ.** Гл. пушчы.

**СЫХОДЗІЦЬ З ПОЛЯ.** Гл. сыходзіць.

*ПОМНІЦЬ* ● **НЕ П`ОМНІЦЬ (НЕ П`АМЯТАЦЬ) СЯБ`Е** *<ад чаго>. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Будучы ўсхваляваным, не кантраляваць сваіх дзеянняў, учынкаў і пад. **Сін.**: выходзіць з сябе; лезці на сцяну; не знаходзіць <сабе> месца; не магчы знайсці <сабе> месца. *Не помнячы сябе, убег Страцім у хату, стаў ля пасцелі Тэафіліі.* Дыла. — *Грыбоўскага я з малых гадоў ведаю, — даводзіў дырэктар, — у адной школе вучыліся. Выпіць, вядома, ён мог. Але не столькі, каб сябе не помніць.* Шыцік. *Мішка не чакаў такога. Не помнячы сябе ад радасці.., ён ускочыў у хату, за якіх пяць хвілін сабраў чамаданчык і.. вылецеў на вуліцу.* Лупсякоў. *Адчуваючы на сваім твары вільготную Жэніну шчаку, ён не памятаў сябе ад шчасця.* Грамовіч.

*ПОНТ* ● **БРАЦЬ НА ПОНТ** *каго.* Гл. браць.

*ПОНТАМ* ● **З П`ОНТАМ**. *Акал. Праст.* З мэтай стварыць пэўнае ўражанне (форсу, важнасці, паказухі і пад.). **Сін.**: дзеля гадзіся; для адводу вачэй; для блізіру; для віду; для вока; для понту; для прыклёпу; для прыліку. *«Дзе падарунак?» – амаль крыкнуў хлопчык. «А я з понтам, піянер, – зноў усміхнулася госця. – З сабой няма, але…» Яна паклала кветкі, дастала з сумачкі грошы і дала хлопчыку. «Ідзі купі сам. Што хочаш».* Станкевіч.

*ПОНТУ* ● **ДЛЯ (ДЗ`ЕЛЯ) П`ОНТУ**. *Акал. Праст.* З мэтай стварыць пэўнае ўражанне (форсу, важнасці, паказухі і пад). **Сін.**: дзеля гадзіся; для адводу вачэй; для блізіру; для віду; для вока; для прыклёпу; для прыліку; з понтам. *Пісьменнік бярэ бутэльку, збіраецца наліць у высокую крышталёвую чарку, а тады пераносіць бутэльку да шклянкі, налівае. Сталін сочыць за гэтым, усміхаецца. – Бачу, казакі – дужы народ? – Гэта я дзеля звычайнага понту. – Стала быць, дзеля понту? – Так, дзеля смеласці. – Што ж, для понту дык для понту. А чаго баяцца?* Чыгрынаў. *– І што сказалі? – Пахвалілі нават цябе. Перадавіком стаў. Гэта добра – меней падазрэння. – Якога падазрэння?.. – Пра падазрэнне я для понту – праверыць. Цябе. Бачу, завязаў. Ці не прызнаеш нас больш?* Бароўскі. *– Не мне казаць вам, што справядлівасць усталёўвае лад у душы. А што да спакусы, дык*

*Яна ж не д'ябальская, прабачце. – То я так для понту, як кажуць у Жытоміры.* Якавенка.

*ПОП* ● **ДУРН`Ы П`ОП ХРЫСЦ`ІЎ** *каго. У безас. ужыв. Праст. Іран.* Хто-н. тупы, неразумны ці наіўны, нездагадлівы. **Сін**.: дах паехаў *у каго*; зрух па фазе *ў каго*; клёпкі не хапае <у галаве> *у каго*; мазгі адсохлі *ў каго* (у 2 знач.); мазгі набакір *у каго*; мазгі не на месцы *ў каго*; мякіна ў галаве *ў каго*; не ўсе дома ў *каго*; салома ў галаве *ў каго, чыёй*; шарыкі за ролікі заходзяць *у каго.* **Ант**.: галава варыць *у каго*; <ёсць> <свая> галава на плячах *у каго*; кацялок варыць *у каго*; мазгі варацъ *у каго*; не галава, а дом саветаў *у каго*; светлая галава *ў каго. Дурны цябе поп хрысціў... Карысці сваёй не бачыць...* Лынькоў. *На галовы дальнарутаўцаў, напрыклад, пакаціўся пыл пагалоскі, што Лёнька зрабіў так нездарма — яго ж дурны поп хрысціў.* Семашкевіч. *Дурны вас поп хрысціў! Не ведаць сатырыка з нашага дома, то ўжо зусім трэба ад жыцця адстаць!* «ЛіМ».

**ШАЛ`ЁНЫ (УТРАП`ЁНЫ, ЛІХ`І) П`ОП ХРЫСЦ`ІЎ** *каго. У безас. ужыв. Разм. Іран.* Хто-н. вельмі рашучы, неўраўнаважаны, схільны да нечаканых учынкаў. **Сін**.: да трох не гавары *з кім, каму. — Звар'яцеў ты, Сяргей, ці што? — Яшчэ не, але мяне шалёны поп хрысціў, і ты, гніда, сцеражыся.* Машара. *А ну, матай адсюль. А то я цябе правучу. Мяне шалёны поп хрысціў.* Асіпенка. *Трэба сказаць, што курсанта ўтрапёны поп хрысціў. Вёрткі яго язык, а словы яшчэ шпарчэй да губы налятаюць.* Калюга. *[Роза:] Не выйдзе. Мяне ліхі поп хрысціў, і даю табе слова: у аптэчцы маёй і серная кіслата на вас абаіх знойдзецца.* Козел.

*ПОПЕЛАМ* ● **ПАСЫПАЦЬ ГАЛАВУ ПОПЕЛАМ.** Гл. пасыпаць.

*ПОПЕЛУ* ● **ЯК ФЕНІКС З ПОПЕЛУ.** Гл. фенікс.

*ПОРАХ* ● **`ЁСЦЬ ЯШЧ`Э П`ОРАХ У ПАРАХАЎН`ІЦАХ** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. мае сілу, энергію, каб зрабіць, здзейсніць што-н. *Так, брат Алесь, нам трэба шчыльней злучыцца, пісаць адзін аднаму, часцей рабіць паверкі самім сабе і час ад часу пытаць сябе: «Ці ёсць яшчэ порах у парахаўніцах?»* Колас. *Каб даказаць, што сапраўды ёсць яшчэ порах у парахаўніцах, ён, Пратасевіч, разагнаўся і, зусім не адчуваючы сваіх год, як хлапчук, перасігнуў тады двухметровы язык полымя.* Васілевіч. *[Антаніна:] Віншую, дачушка, ад усяе душы віншую! [Барсюк:] Значыцца, ёсць яшчэ ў Барсюковых порах у парахаўніцах!* Чавускі.

**НЮХАЦЬ ПОРАХ.** Гл. нюхаць.

**ПОРАХ НЕ ВЫДУМЛЯЦЬ.** Гл. выдумляць.

**П`ОРАХ С`ЫПЛЕЦЦА** *з каго. У безас. ужыв. Разм. Пагард.* Хто-н.

вельмі стары, слабы. **Сін**.: парахня сыплецца *з каго*; пясок сыплецца *з каго. Пасля такога татальнага грэбня застаюцца нявычасанымі толькі... дзяды ды бабулі. Мабілізаваць іх у ваенную прамысловасць няма сэнсу, з іх і так ужо сыплецца порах.* Крапіва. *Я не з тых, хто трымаецца за пасаду, як клешч. З яго, беднага, порах сыплецца, а ён усё падскоквае, дае ўстаноўкі, камандуе, не заўважаючы, што выпусціў лейцы з рук і за яго робяць другія.* Хадкевіч.

**ТРАЦІЦЬ ПОРАХ.** Гл. траціць.

**ТРЫМАЦЬ ПОРАХ СУХІМ.** Гл. трымаць.

*ПОРАХАМ* ● **БОЧКА З ПОРАХАМ.** Гл. бочка.

**ПАХНЕ ПОРАХАМ <У ПАВЕТРЫ>.** Гл. пахне.

*ПОРАХУ* ● **ПОРАХУ НЕ ВЫДУМЛЯЦЬ.** Гл. выдумляць.

**ПОРАХУ НЕ ХАПАЕ** *ў каго.* Гл. хапае.

*ПОРТКІ* ● **ПРАЦІРАЦЬ ПОРТКІ** *дзе.* Гл. праціраць.

*ПОРХАЎКУ* ● Збіць **НА П`ОРХАЎКУ.** *Акал.* Звычайна ўжыв. пры дзеясл. зак. тр. *Разм.* Вельмі моцна, бязлітасна. **Сін**.: да жывога (у 2 знач.); да паўсмерці; на горкі яблык; як сідараву казу. *[Леапольд Гушка:] Скажаш, што мы цябе на порхаўку збілі і самі ўцяклі.* Чорны. *Фашыстам удалося высачыць адважную разведчыцу. Раз’юшаныя вылюдкі ўламаліся ў яе хаціну на ўзлессі. На порхаўку збілі маладую жанчыну...* Грахоўскі.

*ПОРШНЯМІ* ● **ВАРУШЫЦЬ ПОРШНЯМІ.** Гл. варушыць.

*ПОСУДУ* ● **ХАДЗІЦЬ КАЛЯ ПОСУДУ ЧЫСТА.** Гл. хадзіць.

*ПОТ* ● **ВЫЦІСКАЦЬ ПОТ** *з каго.* Гл. выціскаць.

**КІДАЕ Ў <ХАЛОДНЫ> ПОТ** *каго.* Гл. кідае.

**КРЫВ`АВЫ П`ОТ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Поўная знямога ад цяжкай, непасільнай працы. *Хачу мець зямельку і мру без работы, а чую, што сілы трываюць пакуль, я рад працаваць да крывавага поту і жду ўсё — падмогі няма ніадкуль.* Галубок. *Па-царску шчодра быў узнагароджан салдат за службу, за крывавы пот, японскай куляй у чацвёртым годзе, курлоўскай куляй акурат праз год.* Звонак.

**ЛІЦЬ ПОТ.** Гл. ліць.

**УГАНЯЦЬ У ПОТ** *каго, што.* Гл. уганяць.

**ЦЫГ`АНСКІ П`ОТ.** *Мн. не ўжыв. Часцей дзейн. Разм.* Дрыжыкі ад холаду (прабіраюць каго-н.). *Пераступаючы з нагі на нагу, грэючыся на марозе, гаманілі паміж сабою мужчыны,.. Людзей, як кажуць, прабіраў цыганскі пот, але яны не разыходзіліся.* Гурскі. *У гультая.. цыганскі пот, як за што-небудзь брацца.* Юрчанка.

*ПОТАМ* ● **П`ОТАМ І КР`ОЎЮ (КРЫВЁЮ)** *здабываць (здабыць), набываць (набыць)* і пад. *Акал. Функц. не зам.* Цаной вялікіх намаганняў, з вялікімі цяжкасцямі. — *Маёмасць і жывёлу адбіраў? — Адбіраў. Бо ўсё гэта потам і крывёю людзей набыта. Людзям і раздаў.* Гурскі.

*ПОТУ* ● **ДА С`ЁМАГА (ДЗЕС`ЯТАГА) П`ОТУ.** *Акал. Разм.* Да поўнай знямогі, стомы (рабіць, працаваць і пад.; праца, працавік і пад.). **Сін**.: да ўпаду. *Эх, Сілівей, Сілівей! Усе шэсцьдзесят год жыў бабылём. Бадзяўся па чужых людзях, гарбеў, працаваў да сёмага поту.* Каваль. *Малеўскі стараецца да дзесятага поту.* Бядуля. *Праца ратная поспех нясе, праца гэта да сёмага поту.* Барадулін. *А духата ў школе — не прадыхнуць, гарачыня — да сёмага поту!* Брыль. *[Назарэўскі:] Уся краіна рвецца з неахайнасці, вылазіць з трантаў, а ён, як сцяг свой, можа гэтую лямцаватую вату падняць напаказ: я працавік да сёмага поту, я плюю на вас, чыстых...* Чорны.

*ПОЎЗАЦЬ* ● **П`ОЎЗАЦЬ НА КАЛ`ЕНЯХ** *перад кім. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыніжацца, дагаджаючы. **Сін**.: віляць хвастом (у 2 знач.); гнуцца ў дугу <перад кім>; гнуцца ў тры пагібелі *перад кім*; гнуць спіну *перад кім*; ламаць шапку *перад кім*; лізаць боты *каму,* падаць лістам *перад кім*; падпускаць лёстачкі *каму*; рассыпацца драбней маку *перад кім*; рассыпацца <дробным> макам *перад кім*; слацца лістам *перад кім*; станавіцца на заднія лапкі *перад кім*; хадзіць на задніх лапках *перад кім*; хадзіць на пальчыках *перад кім. Я сказаў Галубовічу, што яны там гуляюць з агнём, а ён адпарыраваў мне, што мы тут «поўзаем на каленях і перад старымі, і перад новымі гаспадарамі, слепа верым у нечую міласць...».* Далідовіч.

*ПОЎНАЕ* ● **НА ПОЎНАЕ ВОКА.** Гл. вока.

*ПОЎНАЙ* ● **З ПОЎНАЙ АДДАЧАЙ.** Гл. аддачай.

**ПОЎНАЙ ЖМЕНЯЙ.** Гл. жменяй.

*ПОЎНАСЦЮ* ● **ЦАЛКАМ І ПОЎНАСЦЮ.** Гл. цалкам.

*ПОЎНАЯ* ● **ПОЎНАЯ КІШЭНЬ.** Гл. кішэнь.

**ПОЎНАЯ ЧАША.** Гл. чаша.

*ПОЎНУЮ* ● **НА ПОЎНУЮ ГУБУ.** Гл. губу.

**НА ПОЎНУЮ КАТУШКУ.** Гл. катушку.

**НА ПОЎНУЮ СІЛУ.** Гл. сілу.

*ПОЎНЫ* ● **НА ПОЎНЫ ГОЛАС.** Гл. голас.

**НА ПОЎНЫ РОТ.** Гл. рот.

**НА ПОЎНЫ ХОД.** Гл. ход.

**ПОЎНЫ РОТ.** Гл. рот.

*ПОЎНЫМ* ● **НА ПОЎНЫМ СУР'ЁЗЕ.** Гл. сур'ёзе.

**ПОЎНЫМ ХОДАМ.** Гл. ходам.

*ПОЎНЫЯ* ● **НА ПОЎНЫЯ ГРУДЗІ.** Гл. грудзі.

*Злосці* **ПОЎНЫЯ КОСЦІ.** Гл. косці.

**УЗДЫХНУЦЬ НА ПОЎНЫЯ ГРУДЗІ.** Гл. уздыхнуць.

*ПОЦЕ* ● **У П`ОЦЕ ТВ`АРУ СВАЙГ`О.** *Акал. Кніжн.* Вельмі старанна, не перастаючы (працаваць, здабываць, зарабляць і пад.). **Сін.**: душы паслухаючы; закасаўшы рукавы; не пакладаючы рук; у поце твару. **Ант.**: абы дзень адбыць; абы дзень да вечара (у 1 знач.); абы з рук; з плеч ды ў печ (у 2 знач.); з пятага на дзесятае (у 2 знач.); па канец рук; праз пятае ў дзесятае (у 2 знач.); пусці павалюся (у 2 знач.); спусціўшы рукавы; сяк-так (у 2 знач.); сяк-так накасяк <абы не па-людску>; цапам-лапам; цапу-лапу; цераз пень калоду (у 1 знач.); цяп ды ляп. – *Чытай біблію, – кажа сам містэр Форд, – так, як я чытаю, там напісана: «У поце твару свайго ты будзеш здабываць свой хлеб».* Пестрак. *Таварышы з Бюро экскурсій і падарожжаў, безумоўна, папрацавалі ў поце твару свайго.* Корбан. *Пакуль гэтыя і некаторыя іншыя «невідзімкі» працавалі «ў поце твару свайго», Кандратовіч вырашыў зрабіць новы фінт.* «Вожык».

**У П`ОЦЕ ТВ`АРУ (ЧАЛ`А).** *Акал. Функц. не зам.* Вельмі старанна, не перастаючы (працаваць, здабываць, зарабляць і пад.). **Сін.**: душы паслухаючы; закасаўшы рукавы; не пакладаючы рук; у поце твару свайго. **Ант.**: абы дзень адбыць; абы дзень да вечара (у 1 знач.); абы з рук; з плеч ды ў печ (у 2 знач.); з пятага на дзесятае (у 2 знач.); па канец рук; праз пятае на дзесятае (у 2 знач.); пусці павалюся (у 2 знач.); спусціўшы рукавы; сяк-так (у 2 знач.); сяк-так накасяк <абы не па-людску>); цапам-лапам; цапу-лапу; цераз пень калоду (у 1 знач.); цяп ды ляп. *Безумоўна, усе гэтыя людзі ў пэўным сэнсе заслугоўваюць павагі – яны ж у поце твару зарабляюць кожны свой рубель.* «Беларусь». *[Пятро] старайся, старайся ў поце твару вось ужо каторы год, забыўшыся пра ўсё на свеце.* Парахневіч. *Другое аблічча – абветранае, заклапочанае, але добразычлівае – аблічча простых людзей, якія ў поце чала здабываюць хлеб надзённы.* «Звязда». *Калі ж чалавек пагарджае адказнасцю перад ведамі, прычым не сваімі, так сказаць, абыходкавымі, бытавымі, але здабытымі ў поце чала мноствам людзей, тады наступае трагедыя.* Тарасаў.

*ПОЯС* ● **<БРАЦЬ> НОГІ ЗА ПОЯС.** Гл. браць.

**ЗАТКНУЦЬ ЗА ПОЯС** *каго.* Гл. заткнуць.

*ПОЯС* ● **УДАР НІЖЭЙ ПОЯСА.** Гл. удар.

*ПРАБАВІЦЬ* ● **ПРАБАВІЦЬ ДУХ** *<чым>. Зак. да* **БАВІЦЬ ДУХ** *<чым>.*

**ПРАБАВІЦЬ ДУШУ.** Гл. пражывіць.

*ПРАБЕГЛА* ● **ЧОРНАЯ КОШКА ПРАБЕГЛА** *паміж кім.* Гл. кошка.

**ЯКАЯ КОШКА ПРАБЕГЛА** *паміж кім.* Гл. кошка.

*ПРАБЕГЛІ* ● **МУРАШКІ ПРАБЕГЛІ ПА ЦЕЛЕ** *ў каго, каго, чыім.* Гл. мурашкі.

*ПРАБІВАЦЬ* ● **ІЛБ`ОМ (ЛБ`ОМ) СЦЯН`У ПРАБІВ`АЦЬ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіць гранічныя намаганні для дасягнення чаго-н. *[Страмілін:] Вось і зрабі вывад. [Русаковіч:] Я-то зрабіў. Трэба, каб і другія зрабілі. А то мне аднаму прыходзіцца лбом сцяну прабіваць.* Крапіва. *[Леапольд Гушка:] Сынок! Як ты не бачыш., што гэтымі словамі ты мне сэрца пераядаеш!.. Я лбом сцяну прабіваю.* Чорны.

**ПРАБІВ`АЦЬ САБ`Е ДАР`ОГУ.** *Незак. Функц. не зам.* **1**. *Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Настойлівымі намаганнямі дабівацца добрага становішча, поспехаў у жыцці. **Сін**.: выбівацца ў людзі; выходзіць на арбіту; выходзіць у людзі; ісці ўгору (у 1 знач.); ісці ў людзі; далёка пайсці; пракладаць сабе дарогу (у 1 знач.); працярэбліваць сабе шлях *куды.* **ПРАБІЦЬ САБЕ ДАРОГУ.** *Зак. [Дзед Цыбулька:] Ну-у, не-е! Ён паедзе ў горад! З яго галавой... Ён праб'е сабе дарогу.* Макаёнак. *Вот я гляджу на цябе, Андрэй, вялікім ты чалавекам стаў. З нас трох ты адзін. Яшчэ Лукаш павінен сабе дарогу прабіць.* Лобан.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Пераадольваючы супярэчнасці, пашырацца, развівацца, набываць прызнанне і пад. Пра ідэі, думкі, вучэнне і пад. **Сін**.: пракладаць сабе дарогу (у 2 знач.). *Малады пісьменнік уважліва сачыў за ўсім новым у жыцці. А гэтае новае нялёгка прабівала сабе дарогу.* Шкраба. *Новыя адносіны да магчымасцей шаснаццаці, семнаццацігадовых прабіваюць сабе дарогу з вялікай цяжкасцю.* «Беларусь». *Усё наватарскае, вострае, спрэчнае заўсёды з вялікай цяжкасцю прабівала сабе дарогу.* «ЛіМ». **ПРАБІЦЬ САБЕ ДАРОГУ.** *Зак.*

*ПРАБІЎ* ● **ЧАС ПРАБІЎ** *<чый, каго>.* Гл. час.

*ПРАБІЦЬ* ● **ПРАБІЦЬ САБЕ ДАРОГУ.** *Зак. да* **ПРАБІВАЦЬ САБЕ ДАРОГУ.**

*ПРАБОЙ* ● **ПАЦАЛАВАЦЬ У ПРАБОЙ.** Гл. пацалаваць.

*ПРАБЯГАЮЦЬ* ● **МУРАШКІ ПРАБЯГАЮЦЬ ПА ЦЕЛЕ** *ў каго, каго, чыім.* Гл. мурашкі.

*ПРАВА* ● **СВАЁ ПРАВА ПРАВІЦЬ.** Гл. правіць.

**ЯЙ-ПР`АВА**. *Выкл. Праст.* Праўда, далібог. Ужыв. для пацвярджэння чаго-н., запэўнення ў чым-н. **Сін.:** бачыць бог; бог сведка; ісцінны бог; слова гонару; чэснае слова; яй-богу; як бог свят ( у 2 знач.). – *Цікава, – кажа сам, – цікава! Здзівіў ты нас, карась, яй-права!* Я.Колас. – *Я яшчэ пагрукаў у дзверы. – За поўнач, кажаш? Не чуў... Яй-права, не чуў...* Кудравец. *Залессе было недалёка ад раённага цэнтра. Па асфальтавай шашы роўна дзесяць кіламетраў. Не блага! Яй-права, не блага!* Ермаловіч. *[Агашка:] Заганарыўся ўжо. Забыў. Яй-права.* Ісачанка.

*ПРАВАЙ* ● **ПА ПРАВАЙ РУЦЭ.** Гл. руку.

*ПРАВАЛІСЯ* ● **Х`ОЦЬ СКР`ОЗЬ ЗЯМЛ`Ю ПРАВАЛ`ІСЯ** *<каму>. Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм.* Вельмі сорамна, няёмка. **Сін**.: хоць ты ў сабакі вачэй пазыч *каму. Рогат стаяў у канторы, а бабам тым — хоць скрозь зямлю праваліся.* Якавенка. *[Купрыянаў:] Я саромеўся на вочы паказацца, мне было хоць скрозь зямлю праваліся.* Капусцін. *Ажэшка марудна, уважліва разглядвала кожную рысачку на Алаізіным твары («...хоць скрозь зямлю праваліся!»), нібыта некага пазнаючы ў ёй.* Коўтун. *Я.. баяўся сустрэцца з кім-небудзь вачыма, асабліва — з Галінай Пятроўнай. Хоць скрозь зямлю праваліся.* Шыловіч.

*ПРАВАЛІЎСЯ* ● **ЯК СКР`ОЗЬ ЗЯМЛ`Ю ПРАВАЛ`ІЎСЯ (-ЛАСЯ, -ЛІСЯ).** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш. ці канкр. прадмета. Нечакана прапаў, знік так, што не знойдзеш. **Сін**.: як у ваду кануў; як у ваду ўпаў. *А я ўвесь горад аббегла, думала, няма ўжо і жывога яго. Ва ўсіх аддзяленнях міліцыі пабыла, а ён як скрозь зямлю праваліўся...* Сабаленка. *Сцяпан.. з'ехаў з Мінска. Ніхто не ведаў, куды ён дзеўся, як скрозь зямлю праваліўся.* Арабей. *[Гравійка] як скрозь зямлю правалілася.* Навуменка. *Я падаваў Сцяпану то жардзіну, то цвік. А сам на вуліцу пазіраў: ці не пакажуцца Зміцёрка з Максімкам. Як скрозь зямлю праваліліся!* Аношкін.

*ПРАВАЛІЦЦА* ● **ПРАВАЛ`ІЦЦА МН`Е НА Г`ЭТЫМ М`ЕСЦЫ.** *Выкл. Разм.* Клянуся, што гэта так. Клятвеннае запэўненне, што сказанае справядліва. **Сін**.: адсохні мне язык; каб я з гэтага месца не сышоў; каб я <так> жыў; не сысці мне з гэтага месца. *[Барыс:] Даруйце, я больш не буду! Ніколі не буду! Праваліцца мне на гэтым месцы!* Матукоўскі. *[Антоній:] Праваліцца мне на гэтым месцы, калі Малыя Замоські не票 станусь Новым Назарэтам!* Петрашкевіч. *Праваліцца мне на гэтым месцы — сам бачыў, як вялі рыжага каня...* Пянкрат.

<u>*Гатоў, рад, хацелася, лепш бы*</u> **ПРАВАЛ`ІЦЦА СКР`ОЗЬ ЗЯМЛ`Ю.**

*Зак. Кампанент вык. (састаўн. ці складанага). Разм.* (Гатоў і пад.) хутчэй схавацца, знікнуць з-за сораму, няёмкасці. *Ён [Сотнікаў] гатовы быў праваліцца скрозь зямлю, каб толькі не сустракацца з Дзёмчыхай.* Быкаў. *Пасля такой неспакойнай ночы іду на сваю новую службу, а сам гатоў скрозь зямлю праваліцца.* Ракітны. *Кастусь рад быў скрозь зямлю праваліцца. Нязмерная напалоханасць змянілася пякучым сорамам за тое, што здарылася.* Шынклер. *«Зверыяда» пісалася і тут жа зачытвалася. Памятае Жоржык і напісанае аб ім. Недарма хацелася знікнуць, праваліцца скрозь зямлю.* Лынькоў. *[Серж] так сябе адчуваў, быццам лепш было б яму ў гэтыя мінуты праваліцца скрозь зямлю.* Чорны.

*ПРАВАМ* ● **В`ЕЧНЫМ ПР`АВАМ** <u>*прапасці.*</u> *Акал. Разм.* Зусім дарэмна, без прычыны. **Сін**.: за гнілую рыбу; ні за грош; ні за капейку; ні за панюх табакі; ні за што ні пра што; як рудая мыш. *[Дзед Талаш] не адважыўся ўзяць з сабою «настаяшчую» стрэльбу, хоць разлучацца з ёю яму было цяжка: пападзешся са стрэльбаю, тады прапаў вечным правам.* Колас.

*ПРАВАХ* ● **НА ПРАВ`АХ** *каго. Акал. Функц. не зам.* У якасці каго-н. ці на становішчы каго-н. **Сін**.: па праву (у 2 знач.). — *Не гарачыся, — спакойна адказаў Ладынін. — Я проста на правах старэйшага раблю табе заўвагі.* Шамякін. — *Дык хата твая тут? — А дзе ж? Там я на правах сваячка... Кватарант! У сястры роднай.* Ярашэвіч.

**НА ПТУШ`ЫНЫХ ПРАВ`АХ** <u>*жыць, існаваць, працаваць*</u> і пад. *Акал. Разм.* Незаконна ці не маючы трывалага забеспячэння. *Некаторым, негарадскім — няма дзе жыць. Трэба, каб ім памаглі гарадскія таварышы... А нам з жонкай давядзецца жыць на птушыных правах...* Новікаў. *Я працаваў, як кажуць, на птушыных правах, ліпеў у сталіцы і настойліва выпрабоўваў усе сродкі, каб стаць законным мінчанінам.* Далідовіч. *Жыў тады я ў студэнцкім інтэрнаце. Жыў «незаконна», ці, як казалі студэнты, на птушыных правах.* Сачанка.

*ПРАВАЯ* ● **ПРАВАЯ РУКА** *чыя, каго, у каго.* Гл. рука.

*ПРАВЕДНІКА* ● **СНОМ ПРАВЕДНІКА.** Гл. сном.

*ПРАВЕСЦІ* ● **ПРАВЕСЦІ МЯЖУ** *паміж кім, паміж чым. Зак. да* **ПРАВОДЗІЦЬ МЯЖУ** *паміж кім, паміж чым.*

**ПРАВЕСЦІ Ў АПОШНІ ШЛЯХ** *каго. Зак. да* **ПРАВОДЗІЦЬ Ў АПОШНІ ШЛЯХ** *каго.*

**ПРАВЕСЦІ Ў ЖЫЦЦЁ** *што. Зак. да* **ПРАВОДЗІЦЬ У ЖЫЦЦЁ** *што.*

*ПРАВЕТРЫВАЦЬ* ● **ПРАВ`ЕТРЫВАЦЬ МАЗГ`І.** *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць, дзейнічаць больш разважліва.

**ПРАВЕТРЫЦЬ МАЗГІ.** *Зак. Не-е, вы не тая, кім паказваецеся перад усімі. Вам трэба мазгі праветрыць.* Грамовіч. *[Арнольд:] Вось што, праветры мазгі і спыні істэрыку.* Шабан.

*ПРАВЕТРЫЦЬ* ● **ПРАВЕТРЫЦЬ МАЗГІ.** *Зак. да* **ПРАВЕТРЫВАЦЬ МАЗГІ.**

*ПРАВІЛА* ● **ЯК ПР`АВІЛА.** У *знач. пабочн. сл. Функц. не зам.* Звычайна, пераважна, часцей за ўсё. *Як правіла, лясныя салдаты, што прыбывалі ў раён Мінска, тут жа ўступалі ў бой са тматлікімі бандамі гітлераўскіх галаварэзаў.* «Полымя». *На ферме не наладжаны санітарны кантроль. Даільныя апараты, як правіла, брудныя, ніхто іх па цэлых тыднях не разбірае і не мые.* «Звязда».

*ПРАВІЛАХ* ● **ПА ЎС`ІХ ПР`АВІЛАХ.** *Акал. Функц. не зам.* Так, як трэба, па-сапраўднаму (рабіць што-н.). **Сін**.: на поўную катушку (у 1 знач.); чын па чыну; чын чынаром; чын чынам; чэсць па чэсці; як дунай (у 2 знач.); як мае быць (у 1 знач.); як належыць; як след. *Маці хлеб пякла напалам з бульбаю або з мякінаю. Ён чарсцвеў у першы ж дзень. А тут быў іржаны хлеб, спечаны па ўсіх правілах ды яшчэ з соллю!* Левановіч. *Следства вялося па ўсіх правілах.* Кавалёў. *Дастаткова было сунуць таму-другому золата, і дазвол афармляўся па ўсіх правілах.* Новікаў.

**ПА ЎС`ІХ ПР`АВІЛАХ МАСТ`АЦТВА.** *Акал. Функц. не зам.* Вельмі ўмела, па-майстэрску (рабіць, зрабіць што-н.). *Туляга кладзе яго [Гарлахвацкага] на лапаткі па ўсіх правілах мастацтва.* Бугаёў.

*ПРАВІЦЬ* ● **БЛ`ЫНДЫ ПР`АВІЦЬ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць упустую, пустасловіць. **Сін**.: араць дарогі; біць язык аб зубы (у 2 знач.); гарадзіць плот <*каму*>; званіць у <разбіты> лапаць; круціць вала <за хвост> (у 2 знач.); ліць ваду; мазоліць язык; малоць языком (у 1 знач.); малоць не падсяваючы; мянціць языком; пераліваць з пустога ў парожняе (у 2 знач.); плесці кашалі <*каму, пра каго, пра што*>; плесці кашалі з лапцямі; плесці лапці; пляскаць языком; разводзіць антымоніі; разводзіць тары-бары; тары-бары <растабары> (у 2 знач.); таўчы ваду ў ступе (у 2 знач.); тачыць лясы <з *кім*>; травіць баланду (у 1 знач.); трапаць языком; часаць язык (у 1 знач.); часаць языком. *Тады павысіў голас Зазыба: — Ну, от што, хопіць... нам блынды правіць!* Чыгрынаў. *[Ульяна:] Дзень пры дні, мяліца, у цяньку агінаецца ці па сяле блынды правіць.* Петрашкевіч.

**ПР`АВІЦЬ Б`АЛЬ** <*дзе, у чым*>. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Мець рашаючае значэнне, выконваць самую істотную ролю ў чым-н. **Сін**.: весці рэй; даваць тон <*каму,*

*чаму, у чым*>; іграць першую скрыпку *ў чым*; камандаваць парадам; рабіць пагоду <*у чым, дзе*>; трымаць лейцы ў <сваіх> руках. **Ант**.: іграць другую скрыпку *ў чым. Многае можна ўспомніць з тых гадоў, калі правілі баль абскурантызм і дэмагогія, зласлівасць і зайздрасць, бюракратызм і ведамасныя амбіцыі.* «ЛіМ».

**СВА`Ё ПР`АВА ПР`АВІЦЬ.** *Незак. Разм. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіць, дзейнічаць па-свойму, не адступаючы ад сваёй думкі, намераў і пад. **Сін**.: стаяць на адным; стаяць на сваім (у 1 знач.). *Няўжо дарэктар так заўзяты, што будзе права сваё правіць і на калені штодзень ставіць?* Колас. *Мужык сам ірвецца да волі Яго і работаю душаць, і ў турму садзяць, і ў Сібір высылаюць, а ён — сваё права правіць.* Якімовіч. *Цяперашнім дзецям хоць у лоб страляй — сваё права правяць...* Місько.

*ПРАВОДЗІЦЬ* ● **ПРАВ`ОДЗІЦЬ МЯЖ`У** *паміж кім, паміж чым. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выяўляць якія-н. адрозненні. *[Васіль] ужо ў такім узросце.., калі чалавек праводзіць усё больш рэзкую мяжу паміж тым, што было калісьці, і тым, што робіцца, чым жыве сёння, пахвальваючы мінулае і ганячы сённяшняе.* Гіль. **ПРАВЕСЦІ МЯЖУ** *паміж кім, паміж чым. Зак.*

**ПРАВ`ОДЗІЦЬ У АП`ОШНІ ШЛ`ЯХ** *каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Ушаноўваць памяць каго-н., прысутнічаць на яго пахаванні. **Сін**.: аддаваць апошні доўг *каму. Позняя восень была, дождж, слота, але праводзіць старога ў апошні шлях выйшла ўся вёска.* Герчык. **ПРАВЕСЦІ Ў АПОШНІ ШЛЯХ** *каго. Зак. Вёска правяла Шурпака ў апошні шлях, адвяла яму законнае месца на сваіх лясных могілках.* «ЛіМ».

**ПРАВ`ОДЗІЦЬ У ЖЫЦЦЁ** *што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ажыццяўляць на практыцы, рабіць рэальнасцю. *[Пытляваны:] А план — што ж гэта такое? Пакуль што паперка. Гэта яшчэ — альбо дожджык, альбо снег, альбо будзе, альбо і не. [Туміловіч:] Мы ўжо яго ў жыццё пачалі праводзіць.* Крапіва. **ПРАВЕСЦІ Ў ЖЫЦЦЁ** *што. Зак. Гэткім павінна быць наша рашэнне. І гэта рашэнне мы павінны правесці ў жыццё, якіх бы ахвяр яно ні каштавала.* Самуйлёнак.

*ПРАВУ* ● **ПА ПР`АВУ.** *Акал. Функц. не зам.* **1**. Законна, з поўнай падставай (лічыцца, называць, прызнаваць, рабіць што-н.). У *нас ёсць шмат твораў, якія па праву залічваюцца ў наш актыў.* Крапіва. *Дзераш на сваім месцы, здольны займаць і па праву займае яго.* Шынклер. *Вы ўсе змагаліся са славай, каб нашу волю адстаяць. Лясныя рыцары — па праву заўсёды можна вас назваць.* Броўка. *Танк*

*па праву можа быць названы адным з лепшых прадаўжальнікаў барацьбы за высокі прэстыж нашай сучаснай паэзіі.* Вітка.

**2**. *каго.* У якасці каго-н. ці на становішчы каго-н. **Сін**.: на правах *каго. У кабінеце, побач з Альшэвічам, шафёрам, сядзеў, па праву старэйшага, Хоміч.* Брыль. «*Па праву вашай зямлячкі, — сказала яна [Зяньковіч], звяртаючыся да гасцей, — прашу перадаць мінскім камвольшчыкам, што іх дабротныя, трывалыя тканіны хацелася б бачыць яшчэ і прыгожымі, святочнымі...*» «Звязда».

**3**. *чаго.* На падставе чаго-н., абапіраючыся на што-н. *Па праву памяці.* (Назва артыкула В.Быкава ў кнізе «Праўдай адзінай»). *Да гэтага часу, мой братка, ты валодаў мною па праву штыка і нагайкі...* Лёсік. *Я гэтыя словы па праву сілы кідаю пад ногі.* Караткевіч. *Русіфікацыя пад выглядам другое дзяржаўнае мовы – па праву двухгаловасці і надалей імперскага арла.* Брыль.

*ПРАВУЮ* ● **ПА ПРАВУЮ РУКУ.** Гл. руку.

*ПРАВЫ* ● **УСТУПАЦЬ У СВАЕ ПРАВЫ.** Гл. уступаць.

*ПРАВЯДЗЕШ* ● **НА МЯК`ІНЕ НЕ ПРАВЯДЗ`ЕШ** *каго. Зак. У абаг.-асаб. знач. Разм.* Не ашукаеш, не перахітрыш. **Сін**.: на крывой кабыле не аб'едзеш *каго. Я чалавек кручаны, мяне на мякіне не правядзеш...* Пташнікаў. *Ды нічога не атрымаецца ў цябе Саўчук! Не на таго напаў. Андрэя Чарапіцу на мякіне не правядзеш. Андрэй Чарапіца — верабей стрэляны...* Блакіт. *— Ведаю такіх чэсненькіх... Мяне на мякіне не правядзеш, — упэўнена, з выглядам пераможцы сказала кантралёрка.* Ягоўдзік.

*ПРАГАЛАСАВАЦЬ* ● **ПРАГАЛАСАВАЦЬ АБЕДЗВЮМА РУКАМІ** *за каго, за што. Зак. да* **ГАЛАСАВАЦЬ АБЕДЗВЮМА РУКАМІ** *за каго, за што.*

*ПРАГЛЕДЗЕЦЬ* ● **ПРАГЛ`ЕДЗЕЦЬ (ПРАГЛЯДЗ`ЕЦЬ) <УС`Е> В`ОЧЫ.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Доўга глядзець на каго-, што-н. *Сказалі людзі, што едзе ён, Віктар, і во — дачакацца не можа. Ганца ўперад выслала. А сама недзе вочы прагледзела ў той бок, адкуль ён павінен прыйсці.* Паўлаў.

**2**. Пільна ўглядаючыся, марна чакаць каго-н. *Хадземце, хадземце, ды хутчэй расказвайце, а то я ўсе вочы прагледзеў, хацелася ўбачыць, каго вы там такога цікавага спаткалі?* Галавач. *Цімошкін ужо вытаптаў сцежку пад гэтым адзінокім калючым палявым кустом, праглядзеў, як кажуць, вочы, а ніхто нідзе не з'яўляўся.* Быкаў. *Вунь вашы ўсе прыехалі даўно... А ваша жонка ўсе вочы прагледзела.* Дамашэвіч.

*ПРАГЛЫНЕШ* ● **ЯЗ`ЫК ПРАГЛЫН`ЕШ.** *Вык. і азн. Разм. Адабр.* Вельмі смачны, прыемны, апетытны. Пра яду, пітво. **Сін**.: за вушы не

адцягнеш (у 1 знач.); пальчыкі абліжаш (у 1 знач.); у роце растае. **Ант**.: расце ў роце; хоць на сабаку выплі. *Вы глуміце бярозавік, а з яго можна такое пітво рабіць, што язык праглынеш...* Асіпенка. *Гэта ж, ведаеш, як нашага бохана, што мама даўней пякла, адкроіш — дух на ўсю хату. Ды сырадою ці ў студні малачка ахалоджанага — язык праглынеш!..* Савіцкі.

*ПРАГЛЫНУЎ* ● **ЯК (Б`ЫЦЦАМ, НІБ`Ы) АРШ`ЫН ПРАГЛЫН`УЎ (-ЛА, -ЛІ).** *Разм. Жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ненатуральна прама стаіць ці сядзіць. *Апушчаныя вочы, шчыльна самкнёныя губы і сама пастава, — нібы праглынуў аршын, — гаварылі аб пэўнай разгубленасці.* Лынькоў. *А хлопцы, хлопцы! Кожны быццам аршын праглынуў: такія важныя, такія строгія.* Сяркоў.

**<ЯК (Б`ЫЦЦАМ)> ЯЗ`ЫК ПРАГЛЫН`УЎ (ПРАКАЎТН`УЎ, -ЛА, ЛІ).** *Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Упарта, зацята маўчаў ці раптоўна замоўк. **Сін**.: <як> вады ў рот набраў. — *Ну што ты за чалавек! Як язык праглынуў. Каб жа пра каго, дык ці пыталася б я?! —Дык от збегай да яе самой і папытай, — агрызнуўся бацька.* Гіль. *[Соня] надта капрызная стала, незгаворлівая. То цэлы вечар бурчыць, то маўчыць, быццам язык праглынула.* Кудравец. *Ігнатовіч ад здзіўлення быццам пракаўтнуў язык — маўчаў добрую мінуту, разглядаючы сваяка зусім па-новаму.* Шамякін. *Расказаў Сідоркін дзеду пра свае нягоды, і зноў стары пракаўтнуў язык на суткі.* Праўдзін.

*ПРАГЛЫНУЎШЫ* ● **ЯК (Б`ЫЦЦАМ, НІБ`Ы) АРШ`ЫН ПРАГЛЫН`УЎШЫ** *сядзець, хадзіць. Акал. Разм. Жарт.* У ненатуральна прамой паставе. *Ян маўчаў. Сядзеў як аршын праглынуўшы.* Арабей. *[Кушаль] заўсёды хадзіў як аршын праглынуўшы.* Новікаў. *Сястра Аўдакія сядзіць нібы аршын праглынуўшы, шэпча нешта.* Лынькоў.

*ПРАГЛЫНУЦЬ* ● **ЖЫЎЦОМ ПРАГЛЫНУЦЬ** *каго.* Гл. з'есці.

**ПРАГЛЫН`УЦЬ <Г`ОРКУЮ> ПІЛ`ЮЛЮ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моўчкі, цярпліва перанесці крыўду, абразу, выслухаць непрыемнае. **Сін**.: праглынуць жабу. *Аўтобус грымнуў рогатам. Даверлівы Веньямін праглынуў горкую пілюлю, а вузкі твар Мудрыка асвяціўся з'едлівай усмешкай.* Навуменка. *Давялося праглынуць горкую пілюлю ды яшчэ і лісліва ўсміхнуцца: — Не, я толькі хачу быць упэўнены, што сапраўды прыношу карысць справе.* Новікаў. *Сяргей у душы быў задаволены, што Баранаў праглынуў такую пілюлю — так яму і трэба, расцяпа!* Шамякін. *— Я згодна, толькі адна, — не то жартам, не то ўсур'ёз сказала Галя. Русіновіч праглынуў пілюлю, але пасля паўзы, якая цягнулася хвіліну, усё ж*

*знайшоў, як яму здавалася, даволі трапны адказ: — А я згодзен, але толькі з табою...* Дамашэвіч.

**ПРАГЛЫН`УЦЬ Ж`АБУ.** *Зак. Аднакр. да* глытаць жаб. *Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моўчкі сцярпець крыўду, абразу, выслухаць непрыемнае. **Сін**.: праглынуць <горкую>пілюлю. *Але калі Карнач раптам стане аспрэчваць Макаеда, то, безумоўна, нагадае гісторыю забудовы Набярэжнай і назаве... першых аўтараў. І рот яму не заткнеш. Прыйдзецца [Ігнатовічу] праглынуць жабу.* Шамякін.

**ПРАГЛЫН`УЦЬ СЛЁЗЫ.** *Зак. Аднакр. да* глытаць слёзы. *Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Стрымаць плач. *І калі зноў вярнуліся ў калідор, Валя не вытрымала. – Гэта я... – не ведаючы, як назваць старую, прызналася яна і праглынула слёзы.* Карпаў.

**ПРАГЛЫН`УЦЬ ЯЗ`ЫК.** *Зак. Разм. Жарт.-іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Перастаць гаварыць, змоўкнуць. **Сін**.: наступаць сабе на язык; павесіць <сабе> замок на рот; прыкусіць язык; прышчаміць язык. *Яе смяшлівыя шчокі з ямачкамі па-дзіцячы расчырванеліся, а з прыгожых вачэй струменіла такая гарэзная весялосць, што Ляўчук проста праглынуў язык і забыўся на ўвесь учарашні інструктаж.* Быкаў. *[Маланка:] Як цябе ўбачыла, дык язык праглынула.* Макаёнак. *—Нябось, як пры кім, то і язык праглынуў! — гаварылі бабкі, бо хацелі б Альяша бачыць перапалоханым цяпер іхняй скаргай.* Карпюк.

*ПРАГЛЯДЗЕЦЬ* ● **ПРАГЛЯДЗЕЦЬ <УСЕ> ВОЧЫ.** Гл. прагледзець.

*ПРАГРЭСУ* ● **ІСЦІ НАПЕРАДЗЕ ПРАГРЭСУ.** Гл.ісці.

**ПАЙСЦІ НАПЕРАДЗЕ ПРАГРЭСУ.** Гл. пайсці.

*ПРАДАВАЦЬ* ● **ПРАДАВ`АЦЬ ДР`ЫЖЫКІ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дрыжаць ад холаду. **Сін**.: зуб на зуб не пападае ў каго. *Да таго мне гэта купанне абрыдла, што я ўжо і не ведаў, што рабіць. Вялікая прыемнасць усю ноч прадаваць дрыжыкі, лежачы ў макроцці!* Шарахоўскі. *Усё часцей мы прадавалі дрыжыкі, бо ўжо ва ўсім адчувалася дыханне восені.* Няхай. *Аганесян напачатку ўсё бурчаў: «Паўночны вецер не шкадуе паўднёвага чалавека». Ды і я дрыжыкі прадаваў. А тады як узяўся арудаваць шуфлем, дык зрабілася горача.* Левановіч.

**ПРАДАВ`АЦЬ З`УБЫ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Весела смяяцца, рагатаць беспрычынна. **Сін**.: выскаляць зубы; зубы грэць на сонцы; скаліць зубы (у 1 знач.); сушыць зубы. *А вы, сарокі, тут не шчабячыце... Хопіць зубы прадаваць, хлопцам касіць трэба...* Машара. — А *ты чаго зубы прадаеш? — цвёрдым расцяжным голасам азвалася дзябёлая, бялявая маладзіца, косячы*

*вачмі назад, адкуль чуўся гэты сыты рогат.* Адамчык. *Яна, чарняўка гэта, якраз і захіхікала першая. І цяпер зноў прадае зубы — усміхаецца.* Масарэнка.

*ПРАДАЎШЫ* ● <u>*Спаць*</u> **ЯК (НІБ`Ы) ПШАН`ІЦУ (ПЯНЬК`У, ПР`ОСА, МУК`У, Л`ЫКА) ПРАД`АЎШЫ.** *Акал. Разм.* Вельмі моцна. **Сін**.: без задніх ног; мёртвым сном; сном праведніка; хоць зубы выберы; як забіты. **Ант**.: на адно вока. *Прыехаўшы да соцкага,ураднік распытаўся аб «сіцылісту». А гэты «сіцыліст» спаў сабе як пшаніцу прадаўшы.* Колас. *Дзіва, першая гадзіна ночы! Спяць некаторыя як пшаніцу прадаўшы.* Лынькоў. *О, каб яшчэ не гэтыя камары, злосныя крывасмокі! Толькі, здарожаным, яны не перашкода, ледзьве ўлегліся, паснулі як пшаніцу прадаўшы.* Пашкоў. *Ды прачніся ты! Спіць як пяньку прадаўшы...* М.Стральцоў. *За дзень бывала насноўдаешся, дык ногі ледзь дамоў прывалачэш і спіш потым нібы пяньку прадаўшы.* Сяркоў. — *Спяць, скажы ты, усе як проса прадаўшы... — здзівіўся ўголас бацька.* Мележ. *Любачка спаў як муку прадаўшы.* Сабаленка. *Спалі Лёня і яго таварышы на гэты раз як лыка прадаўшы.* Новікаў.

*ПРАДАЦЬ* ● **ПРАД`АЦЬ** *каго* **І ГР`ОШЫ ПАЛІЧ`ЫЦЬ.** *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Спрытна, хітра ашукаць, падмануць каго-н. **Сін**.: абводзіць вакол пальца *каго*; абуваць у лапці *каго*; бакі забіваць *каму*; браць на арапа *каго*; браць на бога *каго*; браць на вудачку *каго*; браць на пушку *каго*; вадзіць за нос *каго*; вешаць лапшу <на вушы> *каму*; віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць у поле *каго*; гнуць дугі; гуляць у ката і мышку; дурыць галаву *каму* (у 1 знач.); задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); замазваць вочы *каму*; замыльваць вочы *каму*; запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму*; корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму*; настаўляць акуляры *каму*; пудрыць мазгі *каму*; пускаць пыл у вочы *каму*; сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць вочы *каму*; туманіць галаву *каму*. *Але ёсць такія, брат, жонкі, што мужыка абвядзе вакол пальца, прадасць і грошы палічыць.* Дайліда. *Вельмі ж, дзеткі, не люблю я махляроў. Глядзіць такі на цябе, як варона, а хітры, як чорт. Ён прадасць цябе і грошы палічыць.* «Полымя».

*ПРАДЗІРАЦЬ* ● **ПРАДЗІР`АЦЬ В`ОЧЫ.** *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прачынацца. **Сін**.: праціраць вочы (у 1 знач.). *Прадзіралі вочы, уставалі з пасцеляў і гаспадары.* Сачанка. **ПРАДРАЦЬ ВОЧЫ.** *Зак. На заўтра ж, ледзь прадзёршы вочы і ўспомніўшы ўсё, ён [Трусік] аж падскочыў.* Э.Валасевіч.

**ПРАДЗІР`АЦЬ (ПРАЦІР`АЦЬ) З ПЯС`ОЧКАМ** *каго. Незак. Разм.*

Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна сварыцца на каго-н.; рэзка прабіраць каго-н. **Сін**.: браць пад абстрэл *каго*; браць у абарот *каго* (у 2 знач.); браць у пераплёт *каго* (у 2 знач.); браць у работу *каго* (у 2 знач.); браць у шоры *каго* (у 2 знач.); выганяць матыліцу *з каго*; выціскаць пот *з каго* (у 2 знач.); даваць гарту *каму* (у 1 знач.); даваць гонку *каму*; даваць дыхту *каму* (у 1 знач.); даваць жару *каму* (у 1 знач.); даваць перцу *каму* (у 1 знач.); даваць піць *каму*; даваць прыкурыць *каму* (у 1 знач.); даваць пытлю *каму* (у 1 знач.); даваць у косці *каму* (у 1 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 1 знач.); даваць чосу *каму* (у 1 знач.); задаваць пары *каму*; здымаць стружку *з каго*; мыліць галаву *каму*; мыліць шыю *каму* (у 2 знач.); накруціць хвост *каму*; паддаваць жару *каму* (у 1 знач.); спусціць шкуру *з каго* (у 2 знач.); усыпаць перцу *каму*. **ПРАДРАЦЬ (ПРАЦЕРЦІ) З ПЯСОЧКАМ** *каго. Зак. [Гудзееў:] Самасееў, канешне, правініўся. І вы правільна зрабілі, што прадралі яго з пясочкам.* Макаёнак. *Было тут бракаробам. Было нядбалым. З пясочкам працёрлі, з варам прамылі.* Шынклер.

*ПРАДРАЦЬ* • **ПРАДРАЦЬ ВОЧЫ.** *Зак. да* **ПРАДЗІРАЦЬ ВОЧЫ.**

**ПРАДРАЦЬ З ПЯСОЧКАМ** *каго. Зак. да* **ПРАДЗІРАЦЬ З ПЯСОЧКАМ** *каго.*

*ПРАЕХАЦЬ* • **ЯК (БЫ) НА КАН`І ПРА`ЕХАЦЬ**. *Акал. Разм.* Вельмі добра, удала (пражыць, праслужыць). **Ант.**: як на свінні праехаць. *Другі год службы, і праўда, праляцеў — бы на кані праехаў. Трэці аказаўся куды нуднейшы.* Блакіт. [*Лепешаў*, с. 90: як на кані праехаць.]

<u>*Пражыць*</u> **ЯК НА СВІННІ ПРАЕХАЦЬ.** *Акал. Праст.* Вельмі дрэнна, няўдала. **Ант**.: як на кані праехаць. *Пражывеш во так як на свінні праедзеш, нічога людскага не ўбачыш, не аглянешся — паміраць пара.* Лялько. *Не жаніўся чалавек – было тры анучы, і ажаніўся – тры анучы. Усё жыццё як на свінні праехаў.* Місько. *Вось жа пражыла гэта Серафіма як на свінні праехала... Адна-адзінюткая на свеце, а да самага апошняга працавала, як чорны вол...* «Нар. воля».

*ПРАЖЫВІЦЬ* • **ПРАЖЫВ`ІЦЬ (ПРАБ`АВІЦЬ) ДУШ`У.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Падсілкавацца, крыху перакусіць. **Сін**.: замарыць чарвяка; узяць на зуб *што, чаго (у* 1 знач.). *[Яўхім Стрыгун:] Што гэта будзе? Не будзе чаго, каб і душу пражывіць. А божачка!* Чорны. *Позняй восенню ўжо недзе каля самай Масквы нас, змарнелых, згаладалых, упусцілі пражывіць душу ў нейкую прыдарожную сталоўку.* Вітка. *Увечары маці брала ў прыгаршчы чарніцы з кашаля, абдувала з іх лісце і ўсё кляла ката: — Каб ён здох... Няма чым душу прабавіць... Увабраў увесь жытнік...*

М.Капыловіч.

*ПРАЗ* ● **ЛАМАЦЬ ПРАЗ КАЛЕНА** *што.* Гл. ламаць.

**ЯК ПРАЗ СОН.** Гл. сон.

*ПРАЗАНДЗІРАВАЦЬ* ● **ПРАЗАНДЗ`ІРАВАЦЬ ГЛ`ЕБУ.** *Зак. да* **ПРАЗАНДЗІРАВАЦЬ ГЛЕБУ.**

*ПРАЙДЗІ* ● **СВ`ЕТ ПРАЙДЗ`І (АБЫДЗ`І), ДРУГ`ОГА НЕ ЗН`ОЙДЗЕШ** *такога*; **СВ`ЕТ ПРАЙДЗ`ІЦЕ (АБЫДЗ`ІЦЕ), ДРУГ`ОГА НЕ ЗН`ОЙДЗЕЦЕ** *такога. У безас. ужыв. Разм. Часцей неадабр.* Ніколі не было (такога), ніколі не сустракалася (падобнага). Пра незвычайнага ў якіх-н. адносінах чалавека, часцей прайдзісвета. **Сін**.: свет не бачыў *якога, такога. [Вера:] А мы тут гаварылі з Аляксандрам Пятровічам пра Гарлахвацкага і хацелі запытацца, што вы думаеце пра яго... [Туляга:] Свет прайдзіце, другога такога не знойдзеце.* Крапіва. *Прыстукнуць яго, гада, трэба. Гэта ж такі выжлятнік: свет абыдзі, другога не знойдзеш.* Грахоўскі.

*ПРАЙСЦІ* ● **ПРАЙСЦІ МІМА** *чаго. Зак. да* **ПРАХОДЗІЦЬ МІМА** *чаго.*

**ПРАЙСЦ`І <ПР`АЗ> АГ`ОНЬ І ВАД`У І М`ЕДНЫЯ ТР`УБЫ.** *Зак. Часцей ужыв. у форме пр. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Многа зведаць у жыцці, пабыць у розных цяжкіх абставінах. **Сін**.: з сямі печаў хлеб есці. Я *спытаў чалавека, які прайшоў праз агонь і воды і медныя трубы: «Што сама цяжкое на гэтым свеце?» І ён адказаў: «Прайсці праз вернасць».* Танк. *Санінспектары не ведалі, напэўна, што большасць будучых жыхароў другога корпуса, перш чым трапіць у дзетдом, прайшла, як кажуць, агонь, ваду і медныя трубы — дыхала паравозным дымам, глытала вугальны пыл, падоўгу галадала і недасыпала.* Нядзведскі. *І яму ўжо не трынаццаць, як усім сямікласнікам, а пятнаццаць гадоў... Такі нейкі «засакрэчаны», як дарослы, што прайшоў агонь і ваду і медныя трубы.* Ермаловіч.

**ПРАЙСЦІ ПРАЗ РУКІ** *чые, каго. Зак. да* **ПРАХОДЗІЦЬ ПРАЗ РУКІ** *чые, каго.*

*ПРАЙШОЎ* ● **ЯК МАМАЙ ПРАЙШОЎ** *дзе.* Гл. мамай.

*ПРАКАЎТНУЎ* ● **ЯК ЯЗЫК ПРАКАЎТНУЎ.** Гл. праглынуў.

*ПРАКАЦІЦЬ* ● **ПРАКАЦ`ІЦЬ НА ВАРАН`ЫХ** *каго. Зак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці няпэўнай сукупнасці асоб. Не выбраць, праваліць на выбарах каго-н. *Яшку Качанка пракацілі на вараных...* Шамякін. *Людзі яму не даруюць гэтага. Думаецца, што на справаздачным сходзе пракоцяць яго на вараных. Спахопіцца, ды позна будзе.* Савіцкі. *Калі б камісію прасілі «прафільтраваць» свой склад на міг, яны б, напэўна, пракацілі на вараных сябе саміх.*

Барадулін.

*ПРАКЛАДАЦЬ* ● **ПРАКЛАД`АЦЬ (ПРАКЛ`АДВАЦЬ) ДАР`ОГУ (ШЛ`ЯХ, СЦ`ЕЖКУ)** *каму, чаму, куды. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Ствараць спрыяльныя ўмовы для дасягнення чаго-н., якой-н. мэты, для поспеху, развіцця. *Навука пракладае шляхі чллавеку.* Гамолка. **ПРАКЛАСЦІ (ПРАЛАЖЫЦЬ) ДАРОГУ (ШЛЯХ, СЦЕЖКУ)** *каму, чаму, куды. Зак. У драматургіі ён [К.Крапіва] — патрыярх. Авалодаўшы самым складаным жанрам літаратуры, ён праклаў сцежку нам, маладым, на саюзную сцэну.* «ЛіМ».

**ПРАКЛАД`АЦЬ (ПРАКЛ`АДВАЦЬ) П`ЕРШУЮ БАРАЗН`У.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць пачынальнікам, першаадкрывальнікам у якой-н. справе. *Понтус не зробіць такіх памылак. Але затое ні за што не возьмецца пракладаць першую баразну.* Карпаў. — *Трэба ў гэтым пытанні займаць дзяржаўную пазіцыю, — папярэдзіў старшыня. — Андрэеў жа пракладвае першую баразну, і, вядома, яму цяжка, ён шукае, ён першаадкрывальнік.* «Полымя». **ПРАКЛАСЦІ (ПРАЛАЖЫЦЬ) ПЕРШУЮ БАРАЗНУ.** *Зак.*

**ПРАКЛАД`АЦЬ (ПРАКЛ`АДВАЦЬ) САБ`Е ДАР`ОГУ (ШЛ`ЯХ).** *Незак. Зак. Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дабівацца добрага становішча, поспехаў у жыцці. **Сін**.: выбівацца ў людзі; выходзіць на арбіту; выходзіць у людзі; ісці ўгору (у 1 знач.); ісці ў людзі; далёка пайсці; прабіваць сабе дарогу (у 1 знач.); працярэбліваць сабе шлях *куды. Зусім іншая рэч з сённяшняй вахтаю. Аляксей пракладаў шлях у перадавыя і сабе і другім. Нават не так сабе, як другім.* Карпаў. **ПРАКЛАСЦІ (ПРАЛАЖЫЦЬ) САБЕ ДАРОГУ (ШЛЯХ).** *Зак. Зразумела, што такі твор не мог не выклікаць адпаведнага настрою ў сэрцы беднага селяніна, якому ён быў адрасаваны, не мог не выклікаць гарачага пратэсту супраць такога жыцця, жадання вырвацца, пракласці сабе шлях да лепшай долі.* Крапіва.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Пераадольваючы супярэчнасці, атрымліваць распаўсюджанне, развіццё, прызнанне і пад. Пра ідэі, думкі, вучэнне і пад. **Сін**.: прабіваць сабе дарогу (у 2 знач.). *Сітуацыя ў літаратурна-мастацкай крытыцы супярэчлівая. У яе дзейнасці назіраюцца разнародныя тэндэнцыі, новае пракладвае сабе дарогу ў сутыкненні са старым.* Мушынскі. **ПРАКЛАСЦІ (ПРАЛАЖЫЦЬ) САБЕ ДАРОГУ (ШЛЯХ).** *Зак.*

*ПРАКЛАДВАЦЬ* ● **ПРАКЛАДВАЦЬ ДАРОГУ** *каму, чаму, куды.* Гл. пракладаць.

**ПРАКЛАДВАЦЬ ПЕРШУЮ БАРАЗНУ.** Гл. пракладаць.

**ПРАКЛАДВАЦЬ САБЕ ДАРОГУ.** Гл. пракладаць.

*ПРАКЛАСЦІ* ● **ПРАКЛАСЦІ ДАРОГУ** *каму, чаму, куды. Зак. да* **ПРАКЛАДАЦЬ ДАРОГУ** *каму, чаму, куды.*

**ПРАКЛАСЦІ ПЕРШУЮ БАРАЗНУ.** *Зак. да* **ПРАКЛАДАЦЬ ПЕРШУЮ БАРАЗНУ.**

**ПРАКЛАСЦІ САБЕ ДАРОГУ.** *Зак. да* **ПРАКЛАДАЦЬ САБЕ ДАРОГУ.**

*ПРАКЛЯТЫ* ● **Б`ОГАМ ПРАКЛ`ЯТЫ**. *Азн. Разм.* Ужыв. пры наз. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Занядбалы, пакінуты на волю лёсу. **Сін.**: богам забыты (у 1 знач.). *Ніхто ніколі не памянуў яго добрым словам, так ён насаліў тут за тыя некалькі гадоў, што ажыццяўляў класавую барацьбу і рэпрэсіі ў іхнім Богам праклятым раёне.* Быкаў. *– Хто не баіцца праклятага богам месца? – Слабыя.* Трухан.

*ПРАКРУСТАВА* ● **ПРАКРУСТАВА ЛОЖА.** Гл. ложа.

**УКЛАДАЦЬ У ПРАКРУСТАВА ЛОЖА** *чаго.* Гл. укладаць.

**УКЛАДВАЦЦА Ў ПРАКРУСТАВА ЛОЖА.** Гл. укладвацца.

*ПРАЛАЖЫЦЬ* ● **ПРАЛАЖЫЦЬ ДАРОГУ** *каму, чаму, куды. Зак. да* **ПРАКЛАДАЦЬ ДАРОГУ** *каму, чаму, куды.*

**ПРАЛАЖЫЦЬ ПЕРШУЮ БАРАЗНУ.** *Зак. да* **ПРАКЛАДАЦЬ ПЕРШУЮ БАРАЗНУ.**

**ПРАЛАЖЫЦЬ САБЕ ДАРОГУ.** *Зак. да* **ПРАКЛАДАЦЬ САБЕ ДАРОГУ.**

*ПРАЛІВАЕЦЦА* ● **СВЯТЛО ПРАЛІВАЕЦЦА** *на што.* Гл. святло.

*ПРАЛІВАЦЬ* ● **ПРАЛІВАЦЬ КРАКАДЗІЛАВЫ СЛЁЗЫ.** Гл. ліць.

**ПРАЛІВАЦЬ КРОЎ.** Гл. ліць.

**ПРАЛІВАЦЬ ПОТ.** Гл. ліць.

**ПРАЛІВАЦЬ СВЯТЛО** *на што.* Гл. ліць.

**ПРАЛІВАЦЬ СЛЁЗЫ** *<па кім>*. Гл. ліць.

*ПРАЛІЦЬ* ● **ПРАЛІЦЬ КРАКАДЗІЛАВЫ СЛЁЗЫ.** *Зак. да* **ПРАЛІВАЦЬ КРАКАДЗІЛАВЫ СЛЁЗЫ.**

**ПРАЛІЦЬ КРОЎ.** *Зак. да* **ПРАЛІВАЦЬ КРОЎ.**

**ПРАЛІЦЬ ПОТ.** *Зак. да* **ПРАЛІВАЦЬ ПОТ.**

**ПРАЛІЦЬ СВЯТЛО** *на што. Зак. да* **ПРАЛІВАЦЬ СВЯТЛО** *на што.*

**ПРАЛІЦЬ СЛЁЗЫ** *<па кім>. Зак. да* **ПРАЛІВАЦЬ СЛЁЗЫ** *<па кім>.*

*ПРАЛЬЕЦЦА* ● **КРОЎ ПРАЛЬЕЦЦА** *дзе, чыя, за каго, за што.* Гл. кроў.

*ПРАЛЯТАЕ* ● **ЧУВАЦЬ ЯК МУХА ПРАЛЯТАЕ.** Гл. муха.

*ПРАМА* ● **ГЛЯДЗЕЦЬ <ПРАМА> У ВОЧЫ** *каму, чаму.* Гл. глядзець.

*ПРАМАЗОЛІЦЬ* ● **ПРАМАЗ`ОЛІЦЬ В`УШЫ** *каму. Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Надакучыць адной і той жа

гаворкай, паўтарэннем таго ж самага працяглы час. *Хіба матка не чуе справы. Хіба ёй не хочацца пацалаваць дачкі, хіба не аб ёй яна ноччу прамазоліла вушы Шоламу...* Лынькоў.

*ПРАМАЧЫЦЬ* ● **ПРАМАЧ`ЫЦЬ Г`ОРЛА.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выпіць трохі спіртнога. **Сін**.: бачыць шклянога бога; браць у губу; вадзіць казу; глядзець у бутэльку; закідаць за гальштук; закідваць за каўнер; закладваць за каўнер; заліваць вочы <*чым*> (у 1 знач.); заліваць за каўнер; заліваць чарвяка; мокнуць у гарэлцы; наліць горла; наступаць на корак; не прасыхаць; панюхаць корак. **Ант**.: не браць у рот *што, чаго* (у 2 знач.). *[Сабковіч:] Сястрыца, дай яму чарку гарэлкі, каб прамачыў горла.* Дунін-Марцінкевіч.

*ПРАМЕТЭЕЎ* ● **ПРАМЕТЭЕЎ АГОНЬ.** Гл. агонь.

*ПРАМЫВАЦЬ* ● **ПРАМЫВ`АЦЬ МАЗГ`І** *каму. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Павучаючы каго-н., уздзейнічаючы на каго-н., схіляць да іншага, пабуджаць змяніць паводзіны, погляды і пад. **Сін**.: прачышчаць мазгі *каму. Сёння Цімка мне мазгі прамываў.* Шальманаў. **ПРАМЫЦЬ МАЗГІ** *каму. Зак. Мне, напрыклад, сёння так прамылі мазгі, што ўсе мае ранейшыя думкі...* Ермаловіч. *[Паўзун:] Завязём куды трэба, там табе мазгі прамыюць.* Дзятлаў. *Не дасць Паповіч грошай – звані мне. Мы яму мазгі прамыем.* Шамякін.

*ПРАМЫЎКА* ● **ПРАМ`ЫЎКА МАЗГ`ОЎ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Праст.* **1**. Строгая вымова, праборка, наганяй. *Мяккае, абабітае дэрмацінам [крэсла], Шалянок падсоўваў таму наведвальніку, да якога меў важную просьбу ці іншы інтарэс, а калі ўжо выклікаў на «прамыўку мазгоў»; дык мяккага крэсла не прапаноўваў, добра, калі кіне халодным вокам на цвёрдае.* Карамазаў.

**2**. Ідэалагічная апрацоўка. *У краіне [ЗША] разгорнута нябачная «прамыўка мазгоў» насельніцтву праз усе каналы тэлебачання, кіно, радыё, друку.* «Полымя».

*ПРАМЫЦЬ* ● **ПРАМЫЦЬ МАЗГІ** *каму. Зак. да* **ПРАМЫВАЦЬ МАЗГІ** *каму.*

*ПРАМЯНЯЦЬ* ● **ПРАМЯНЯЦЬ БЫКА НА ІНДЫКА.** *Зак. да* **МЯНЯЦЬ БЫКА НА ІНДЫКА.**

*ПРАНЕСЦІ* ● **МІМА РОТА НЕ ПРАНЕСЦІ.** *Зак. да* **МІМА РОТА НЕ НЕСЦІ.**

*ПРАПАДАЛА* ● **ДЗ`Е Н`АША (МА`Ё) НЕ ПРАПАД`АЛА.** *Выкл. Разм.* Выказванне гатоўнасці рызыкнуць. **Сін**.: адзін раз марку жаніць; будзь што будзе; было не было; трус у карты не гуляе; што будзе то будзе. *Наеліся смачна і — дзе наша не прападала! — купілі бутэльку*

*сітра і напіліся смагла...* Гарэцкі. *Эх, дзе наша не прападала! Давай дранікі.* Грахоўскі. *[Жлукта:] Так і быць ужо — прыходзьце да мяне. Дзе маё не прападала.* Крапіва.

*ПРАПАДАЦЬ* ● **ПРАПАД`АЦЬ З ВАЧ`ЭЙ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці канкр. прадмета. Пераставаць быць бачным. **Сін**.: знікнуць з вачэй. **ПРАПАСЦІ З ВАЧЭЙ.** *Зак. Маці з парожнім кашалём, які целяпаўся ў яе за спінаю, прайшла гала і прапала з вачэй за камлямі хвой.* М.Капыловіч. *Пятро ўбачыў стагі. Ён глядзеў, пакуль яны не прапалі з вачэй, — за маркотна-мройным далягладам.* М.Стральцоў.

*ПРАПАДЗЕ* ● **НЕ ПРАПАДЗ`Е** *за кім. У безас. ужыв. Разм.* Кім-н. будзе вернута, кампенсавана, адплачана. Пра тое, што было ўзята, патрачана і пад. **Сін**.: не заржавее *за кім*; не стане *за кім. [Сідар:] Абавязкова! Паіцель і карміцель! Век не забуду! За мною не прападзе...* Махнач. — *За мной не прападзе, ты мяне ведаеш, — выставіў далонь Абабурка.* Шыцік.

*ПРАПАДЗІ* ● **ПРАПАДЗ`І ПР`ОПАДАМ** *што, хто. Толькі ў гэтай форме. Выкл. Праст.* Выказванне моцнага раздражнення, злосці з прычыны чаго-н. **Сін**.: гары ён гарам; каб пуста было *каму*; ні дна ні пакрышкі *каму, чаму. І зноў здавалася — вось-вось Васіль разарве ўсё, што аблытвала яго*; *прападзі яно пропадам, — і пойдзе, вольны, шчаслівы.* Мележ. *[Клава:] Лявон! Твой певень зноў павёў курэй на агароды. [Лявон:] А прападзі яно пропадам!* Макаёнак. *Дык прападзі яна пропадам, тая нікчэмная мітусня дзеля бясконцага, ненаежнага дабрабыту, калі праз яе застаецца ўбаку самае важнае.* Быкаў.

*ПРАПАЛА* ● **ПІШЫ ПРАПАЛА.** Гл. пішы.

*ПРАПАНАВАЦЬ* ● **ПРАПАНАВ`АЦЬ РУК`У І С`ЭРЦА** *каму. Незак. і зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прасіць каго-н. стаць жонкай. **Сін**.: рабіць прапанову *каму,* прасіць рукі *чыёй, каго, у каго. У хуткім часе малады мастак прапанаваў Марысі руку і сэрца, і яна расцвіла, як вясновая ружа.* Навуменка. *Даўгалёва выпісалі са шпіталя, і ён прапанаваў ёй руку і сэрца, Люся адразу згадзілася.* Леванові̇ч. —*Да мяне сёння прыбудзе малады чалавек, які прапанаваў мне руку і сэрца... — Ірына пільна сачыла за бацькамі.* Рубанаў.

*ПРАПАНОВА* ● **ПРАПАН`ОВА РУК`І І С`ЭРЦА**. *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Просьба хлопца да дзяўчыны стаць яго жонкай. *– Так можа быць заўсёды. Калі толькі ты гэтага захочаш, – азваўся Ігар. – Ларыса ўважліва зірнула на ягоны твар, бачны толькі ў профіль: – Як разумець вашы словы, сеньёр? – Як прапанову рукі і сэрца.* Мушынская.

*ПРАПАНОВУ* ● **РАБІЦЬ ПРАПАНОВУ** *каму.* Гл. рабіць.

*ПРАПАСЦІ* ● **ПРАПАСЦІ З ВАЧЭЙ.** *Зак. да* **ПРАПАДАЦЬ З ВАЧЭЙ.**

*ПРАПАЎ* ● **<І> СЛЕД ПРАПАЎ** *чый, каго.* Гл. след.

*ПРАПІСАЦЬ* ● **ПРАПІС`АЦЬ `ІЖЫЦУ** *каму. Зак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Сурова правучыць каго-н., жорстка расправіцца з кім-н. **Сін**.: даваць гарту *каму* (у 2 знач.); даваць дыхту (у 2 знач.); даваць жару (у 2 знач.); даваць копаці *каму*; даваць перцу *каму* (у 2 знач.); даваць прыкурыць *каму* (у 2 знач.); даваць пытлю *каму* (у 2 знач.); даваць у косці *каму* (у 2 знач.); даваць у скуру *каму*; даваць чапаласу *каму* (у 2 знач.); даваць чосу *каму* (у 2 знач.); даць па зубах *каму*; даць па карку *каму*; задаваць фефару *каму*; мыліць шыю *каму* (у 1 знач.); намяць бакі *каму*; па сцяне размазаць *каго*; спусціць шкуру *з каго* (у 1 знач.); усыпаць гарачых *каму*; чартоў ганяць. *[Карнейчык:] Прыйдуць нашы, прапішам мы яму іжыцу.* Крапіва. *Не перашкаджайце адпачываць іншым, а то пачуе Свіліс — ён вам прапіша іжыцу.* Машара. *Малатарні то Пахвіснеў праглыне. Агалоскі пабаіцца. Але за бунты іжыцу прапіша.* Мальдзіс.

*ПРАПІСНАЯ* ● **ПРАПІСНАЯ ІСЦІНА.** Гл. ісціна.

*ПРАПЛАКАЦЬ* ● **ПРАПЛАКАЦЬ <УСЕ> ВОЧЫ.** Гл. выплакаць.

*ПРАПУСКАЦЬ* ● **ПРАПУСК`АЦЬ ПАМ`ІЖ П`АЛЬЦАМІ** *што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знарок не звяртаць увагі на што-н., не надаваць значэння чаму-н. **Сін**.: глядзець праз пальцы *на каго, на што*; закрываць вочы *на што*; праходзіць міма *чаго.* **ПРАПУСЦІЦЬ ПАМІЖ ПАЛЬЦАМІ** *што. Зак. Ты правільны, я ведаю. А можа, Андрушка, дзе-нідзе трэба прапусціць паміж пальцамі, не заўважыць?* Лобан.

*ПРАПУСЦІЦЬ* ● **ПРАПУСЦІЦЬ ПАМІЖ ПАЛЬЦАМІ** *што. Зак. да* **ПРАПУСКАЦЬ ПАМІЖ ПАЛЬЦАМІ** *што.*

*ПРАРЭХІ* ● **ЗАЛАТАЦЬ ПРАРЭХІ** *кім, чым, у чым.* Гл.залатаць.

*ПРАСЕДЖВАННЕ* ● **ПРАС`ЕДЖВАННЕ ШТАН`ОЎ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Часта іран.* Канцылярская ці іншая праца за пісьмовым сталом. *Прыкра, калі літаратар «выязджае» на адным Богам дадзеным таланце і падмацоўвае яго ў маладосці не праседжваннем штаноў у бібліятэцы, а чаканнем «натхнення» над чаркай гарэлкі...* Пятровіч.

*ПРАСЕДЖВАЦЬ* ● **ПРАСЕДЖВАЦЬ ШТАНЫ** *дзе.* Гл. праціраць.

*ПРАСІЦЬ* ● **ПРАС`ІЦЬ РУК`І** *чыёй, каго, у каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Сватацца. **Сін**.: прапанаваць руку і сэрца *каму*; рабіць прапанову *каму. [Суддзя:] Ніколі сабе не дарую,*

*што я гэтак аганьбій маю дарагую Адэльцю, пазволій гэтаму злодзею прасіць яе рукі.* Дунін-Марцінкевіч. *Калі 36-гадовы Пётр Ажэшка прыйшоў прасіць рукі шаснаццацігадовай Элізы Паўлоўскай, яна і не падумала адмовіцца...* Карпюк. *[Яніна:] А што ён вам гаварыў? [Лабыш:] Прасіў у мяне тваёй рукі.* Козел. **ПАПРАСІЦЬ РУКІ** *чыёй, каго, у каго. Зак. Я ж не вінавата, што Мінця закахаўся ў мяне і... папрасіў маёй рукі.* Рылько.

*ПРАСКЛАНЯЦЬ* ● **ПРАСКЛАНЯЦЬ ВА ЎСІХ СКЛОНАХ** *каго, што. Зак. да* **СКЛАНЯЦЬ ВА ЎСІХ СКЛОНАХ** *каго, што.*

**ПРАСКЛАНЯЦЬ НА ЎСЕ ЛАДЫ** *каго, што. Зак. да* **СКЛАНЯЦЬ НА ЎСЕ ЛАДЫ** *каго, што.*

*ПРАСКОЧЫЦЬ* ● **МЫШ НЕ ПРАСКОЧЫЦЬ.** Гл. мыш.

*ПРАСЛУХАЦЬ* ● **ПРАСЛ`УХАЦЬ <УС`Е> В`УШЫ.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі доўга і напружана прыслухоўваючыся, дарэмна чакаць каго-н. *Матка чакала Сцёпку. Усе вочы прагледзела, вушы праслухала.* Зарэцкі. *Перапалохана кабеціна з дзяцьмі на шлях ідзе штодзень пад крыж і пазірае ўдаль; ... праслухала і вушы ўжо, а слухае на жаль.* Купала.

*ПРАСТАТА* ● **СВЯТ`АЯ ПРАСТАТ`А.** *Мн. не ўжыв. Часцей вык. ці зваротак. Функц. не зам.* Наіўны, прастадушны чалавек. *[Каліноўскі:] Моляцца... Узносяць малітвы найвышэйшаму аб утварэнні на зямлі спакою. І народ верыць!.. І хавае ў дамавіну сваю вольнасць... Святая прастата!* Міровіч. *— Якую клічку возьмеш? — Якую яшчэ клічку? — Ах ты, святая прастата! Не разумееш? Для канспірацыі, каб староннія не адгадалі. Ну, дык як назавёмся?* Быкаў. *Тады малады дзесятнік пачаў заляцацца. Нічога ж пра яе не ведае, шчабеча ўвесь вечар — святая прастата.* Мысліве ц.

*ПРАСТЫЎ* ● **<І> СЛЕД ПРАСТЫЎ** *чый, каго.* Гл. след.

*ПРАСУНУЦЬ* ● **НОСА НЕ ПРАСУНУЦЬ** <*куды*>. Гл. убіць.

*ПРАСЦЕЙ* ● **ПРАСЦ`ЕЙ П`АРАНАЙ Р`ЭПЫ.** *Вык. і акал. Разм.* Вельмі проста, надзвычай лёгка. Сін.: за адну шчаку; прасцей простага; раз плюнуць <*каму, для каго*>; як босаму разуцца; як плюнуць. *Прасцей мне паранае рэпы любы, з любое мовы эпас — мне не патрэбен нават слоўнік. Вы дайце толькі падрадкоўнік!* Вітка. *Усё вельмі проста, Кацярына Кірылаўна. Усё прасцей паранай рэпы.* Асіпенка. *— Дык згаджайся... — Не, не магу. — Значыць, хочаш памерці! — злосна заключыў немец. — Гэта прасцей паранай рэпы. Заўтра ж павесім. Ды ўсё ж падумай. Да заўтра.* Быкаў. *Я магу ў любы дзень зволіць вас. У наш час пазбавіцца чалавека, які п'е, — гэта прасцей паранай*

*рэпы.* Цяжкі.

**ПРАСЦ`ЕЙ ПР`ОСТАГА.** *Вык. і акал. Разм.* Вельмі лёгка і проста. **Сін**.: за адну шчаку; прасцей паранай рэпы; раз плюнуць <*каму, для каго*>; як босаму разуцца; як плюнуць. — *Гэта ж прасцей простага. Глядзіце, — Барыс схапіў крэсла сядзеннем ад сябе* і, *трымаючы яго перад сабой, зрабіў некалькі крокаў.* Асіпенка. *Такім кандыбоберам вісмут і бор трапляюць у чыгун. Прасцей простага.* Карпаў. — *Цяпер трыццатага з армянамі [гуляюць нашы футбалісты]. На сваім полі — павінны накідаць. — Прасцей простага.* Арлоў.

*ПРАСЫХАЦЬ* ● **НЕ ПРАСЫХ`АЦЬ**. *Незак. Разм. Асудж.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Беспрабудна п’янстваваць. **Сін.**: бачыць шклянога бога; браць у губу; вадзіць казу; глядзець у бутэльку; закідваць за гальштук; закідваць за каўнер; закладваць за каўнер; заліваць вочы <*чым*> (у 1 знач.); заліваць за каўнер; заліваць чарвяка; мокнуць у гарэлцы; наліць горла; наступаць на корак; панюхаць корак; прамачыць горла. **Ант.**: не браць у рот *што, чаго* (у 2 знач.). – *Махнём на Прыпяць. Трэба ж дзецям рыба... – Знаю я тваю рыбу. Самагоначка запахла. Хведзька твой не прасыхае*. Шамякін. – *Гэта ты, Сцяпан, сёння п’яны ці не?.. Ды ты заўсёды на адзін капыл – паспрабуй разбярыся, які ты. Не прасыхаеш. – Хто гэта не прасыхае? – хаваючы вочы, мовіў Сцяпан.* В.Ткачоў. *Данька сыпаў грашамі налева і направа, сам не прасыхаў і дружбакоў вадзіў цэлую кампанію за сабой...* Масарэнка. *Жанчына жалілася, што муж – п’яніца, не прасыхае.* Арабей.

*ПРАТКНЕШ* ● **ПАЛЬЦА НЕ ПРАТКНЕШ.** Гл. уваб’еш.

*ПРАТКНУЦЬ* ● **П`АЛЬЦАМ НЕ ПРАТКН`УЦЬ** *каго. Часцей акал. Разм.* Вельмі многа. **Сін**.: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць

заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. Людзей сабралася — пальцам не пратknуць.* Пянкрат. *Людзей — пальцам не пратknуць. Адны квасу хочуць, другія — марожанага.* «Вожык».

*ПРАТРУБІЦЬ* ● **ПРАТРУБ`ІЦЬ УС`Е В`УШЫ** *каму <пра каго, пра што, аб кім>. Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Надакучыць пастаяннымі размовамі пра што-н. **Сін**.: аб'ядаць вушы *каму* (у 1 знач.); мазоліць вушы *каму, чые. Ніна Васільеўна шчыра захаплялася Людай і пратрубіла вушы аб ёй Вадзіму Рыгоравічу.* Лынькоў. *Мой Уладзік усе вушы пратрубіў пра гэты вечар.* Карпюк. *Валодзя пра вас усе вушы мне пратрубіў.* Арабей. *А вечарам напарніца Марыны вушы ёй пратрубіла, даводзячы, як быў уражаны саліст.* Радкевіч. *Ліда першыя дні пратрубіла ёй [Зосі] вушы пра Ахрэма.* Кузьмянкоў.

*ПРАЎДА* ● **ШТО ПР`АЎДА ТО ПР`АЎДА.** *У знач. пабочн. сл. Разм.* Сапраўды, няма падстаў сумнявацца. Ужыв. для пацвярджэння праўдзівасці таго, пра што паведамляецца. **Сін**.: апроч жартаў; нечага сказаць; нічога не скажаш; няма чаго казаць (у 1 знач.); слоў няма; так <яно> і ёсць; што <і> казаць. — *А то як дазнаецца паліцыя, то, бабка казала, тады ўжо вам не выбрацца з турмы... — Што праўда то праўда... — сказаў дзядзька Даніла.* Каліна. *Віктар успомніў, як Аня яшчэ ў будаўнічым атрадзе сказала яму: «Ад сябе не ўцячэш». Што праўда то праўда — ад сябе нікуды не падзецца.* Кобец-Філімонава.

*ПРАЎДАМІ* ● **<УС`ІМІ> ПР`АЎДАМІ І НЯПР`АЎДАМІ.** *Акал. Функц. не зам.* Любымі сродкамі, нічым не грэбуючы. **Сін**.: кроў з носа; любой цаной; хоць з калена выламі; хоць <ты> лопні (у 2 знач.); што б там ні было. *Упершыню давялося жыць праўдамі і няпраўдамі, як кажуць, хітруючы і выкручваючыся.* Лужанін. *Але, як ні намагайся, як ні шчыравай, не выманіў, не выпрасіў праўдамі і няпраўдамі анучнік у Мархуты золата.* Сачанка. *Чаму ж ён тады маўчыць, гэты сумленны, калі я ўсімі праўдамі і няпраўдамі цягнуў яго ў сталіцу?..* Асіпенка.

*ПРАХ* ● **АБТРЭСЦІ ПРАХ** *чый, каго, чаго* **З НОГ <СВАІХ>.** Гл. абтрэсці.

**У ПУХ <І ПРАХ>.** Гл. пух.

*ПРАХАЛОДАЙ* ● **З ПРАХАЛ`ОДАЙ.** *Акал. Разм. Неадабр.* Не

спяшаючыся, без руплівасці (рабіць што-н.). **Сін**.: з халадком. *Нярэдка яшчэ здараецца, калі на адных аперацыях механізатар стараецца на поўную моц, а на другіх — працуе напаўсілы, з прахалодай.* «ЛіМ».

*ПРАХАМ* ● **ІСЦІ ПРАХАМ.** Гл. ісці.

*ПРАХОДЗІЦЬ* ● **ПРАХ`ОДЗІЦЬ М`ІМА** *чаго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не звяртаць увагі, не рэагаваць на што-н., зусім не заўважаць чаго-н. **Сін**.: глядзець праз пальцы *на каго, на што*; закрываць вочы *на што*; прапускаць паміж пальцамі *што. [Крандзялёў:] Я — старшыня групы народнага кантролю!.. Я хварэю за калгас! І нясу адказнасць! Я не павінен праходзіць міма...* Макаёнак. **ПРАЙСЦІ МІМА** *чаго. Зак. Мы адначасова не можам прайсці міма аднаго досыць сумнага факта, які заключаецца ў тым, што нашы старэйшыя драматургі, за рэдкім выключэннем, не напісалі новых п'ес.* Крапіва. *Гэта... хуліганскі ўчынак... Абраза настаўніка, класа. І мы не можам прайсці міма такога факта...* Шамякін.

**ПРАХ`ОДЗІЦЬ ПРАЗ Р`УКІ** *чые, каго. Незак. Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Атрымліваць якую-н. дапамогу, падтрымку з боку каго-н. *Некалі сотні раненых праходзілі праз мае рукі, і то я стараўся ведаць, з кім маю справу.* Кулакоўскі. **ПРАЙСЦІ ПРАЗ РУКІ** *чые, каго. Зак.*

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адчуваць моцнае ўздзеянне з чыйго-н. боку, быць у вывучцы ў каго-н. **ПРАЙСЦІ ПРАЗ РУКІ** *чые, каго. Зак. — А Русак... — фурман задумаўся і сказаў: — Колькі дзяцей праз яго рукі прайшло! А пасля вайны такія ж шалапуты былі адпетыя... З самапаламі, з рагаткамі хадзілі ў школу! І што вы думаеце — людзі з іх выйшлі.* Леванові́ч. *А вось якім быў гэты Іван Трацяк, чым асаблівым вызначаўся?... Можа, быў звычайны шэры вучань, якіх нямала прайшло праз яго [Баранчуковы] рукі...* Гаўрылкін.

**3**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Быць пэўны час у распараджэнні, у рабоце і пад. у каго-н. *Практычна кожнае слова, якое ўводзіцца ў той ці іншы акадэмічны слоўнік, праходзіць праз рукі Кандрата Крапівы, ацэньваецца і кантралюецца ім.* «Звязда». **ПРАЙСЦІ ПРАЗ РУКІ** *чые, каго. Зак. Каб падлічыць тыя кіламетры, што праехаў Лявон Свірыдавіч, седзячы за рулём, дык ён даўно ўжо мог бы лічыцца мільянерам. А колькі машын прайшло праз яго рукі!* Корбан.

*ПРАХОДУ* ● **НЕ ДАВАЦЬ ПРАХОДУ** *каму.* Гл. даваць.

*ПРАХУ* ● **МІР ПРАХУ** *каго, чыйму.* Гл. мір.

*ПРАЦЕРАБІЦЬ* ● **ПРАЦЕРАБІЦЬ САБЕ ШЛЯХ** *куды. Зак. да*

**ПРАЦЯРЭБЛІВАЦЬ САБЕ ШЛЯХ** *куды.*

*ПРАЦЕРЦІ* ● **ПРАЦЕРЦІ ВОЧЫ.** *Зак. да* **ПРАЦІРАЦЬ ВОЧЫ.**

**ПРАЦЕРЦІ З ПЯСОЧКАМ** *каго. Зак. да* **ПРАЦІРАЦЬ З ПЯСОЧКАМ.**

**ПРАЦІР`АЦЬ В`ОЧЫ.** *Незак. Прост.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Прачынацца. **Сін**.: прадзіраць вочы. **ПРАЦЕРЦІ ВОЧЫ.** *Зак. Працёр вочы, сон свой страшны ўспомніў, закалаціўся ўвесь, зуб на зуб не пападае...* Ядвігін Ш. *[Марыя Кірылаўна:] Пратры хутчэй вочы! Сам Каліберaў прыехаў. Зараз у хату наскочыць.* Макаёнак.

**2**. *каму.* Дапамагаць зразумець сапраўднае становішча, рабіць відавочнай праўду аб чым-, кім-н. **Сін**.: адкрываць вочы *каму <на каго, на што>*; развязваць вочы *каму*; расплюшчваць вочы *каму на каго, на што.* **ПРАЦЕРЦІ ВОЧЫ** *каму. Зак. Вот гэтых законаў паняць я не мог; за гэта ж цяпер я папаўся ў астрог. Цяпер ужо тут мне вочы працёрлі, пазнаў, як у бацькаву хату запёрлі...* Багушэвіч. *А вас, шаноўны Цайт, мы папросім працерці вочы нашай унутранай разведцы.* Лынькоў.

*ПРАЦІРАЦЬ* ● **ПРАЦІРАЦЬ З ПЯСОЧКАМ** *каго.* Гл. прадзіраць.

**ПРАЦІР`АЦЬ (ПРАС`ЕДЖВАЦЬ) ШТАН`Ы (П`ОРТКІ, НАГАВ`ІЦЫ)** *дзе. Незак. Разм. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы мужчынскага полу. Займацца канцылярскай працай за пісьмовым сталом. *Грамацей гэты прабіўся ў рахункаводы яшчэ да вайны і ўвесь час праціраў порткі ў канторы...* Масарэнка. *Сотні тысяч людзей у розных нашых канторах, установах, НДІ, якіх развялося столькі, што не злічыць, сапраўды часта не ведаюць, чым заняцца, проста праціраюць штаны.* Законнікаў. *Старому следчаму да чорцікаў абрыдла праціраць штаны ў душным кабінеце, і ён рады выпадку прыхапіць лішні выхадны...* Праўдзін. *Чыноўнічку перападае свая сціплая скібачка з алеем, ён жа штаны праціраe на гасударавай службе.* Дубінка. *Мода цяпер такая ў чынавенства: не праседжваць нагавіцы ў кабінетах, не пацець на пасяджэннях, а – выязджаць да прыроды, да простых людзей.* Астравец.

*ПРАЦЭС* ● **ПРАЦ`ЭС ПАЙШ`ОЎ**. *Часцей ужыв. як самастойны ск. Разм.* Незваротны, неабарачальны рух у развіцці чаго-н. пачаўся. *Неабходна было найхутчэй здаць у вытворчасць першы том [Поўнага збору твораў Янкі Купалы], каб, кажучы вядомымі словамі, працэс пайшоў.* Мушынскі. *Армяне ўзяліся наладзіць збыт цацак у суседнюю дзяржаву. Разлічвацца абяцалі не бартэрам, а звонкай манетай. І, як кажуць, працэс пайшоў.* Брава. *Міхаіл Гарбачоў ставіў яе [перабудовачную рэйку] на вышыню, дазволеную статусам КПСС,*

*плюс дадаваў некалькі сантыметраў ад сябе, астуджаючы і супакойваючы нецярплівых словамі: «Працэс пайшоў!»* Кудравец. *І час вялікіх перамен наступіў – «працэс пайшоў». Ён пачаўся з таго, што ў людзей адкрыліся вочы на нядаўняе мінулае.* Гілевіч.

*ПРАЦЯГВАЦЬ* ● **ПРАЦЯГВАЦЬ РУКУ <ДАПАМОГІ>** *каму.* Гл. падаваць.

*ПРАЦЯГНЕНАЙ* ● **З ПРАЦЯГНЕНАЙ РУКОЙ.** Гл. рукой.

*ПРАЦЯГНУТАЙ* ● **З ПРАЦЯГНУТАЙ РУКОЙ.** Гл. рукой.

*ПРАЦЯГНУЦЬ* ● **ПРАЦЯГНУЦЬ НОГІ.** Гл. выцягнуць.

**ПРАЦЯГНУЦЬ РУКУ <ДАПАМОГІ>** *каму. Зак. да* **ПАДАВАЦЬ РУКУ <ДАПАМОГІ>** *каму.*

*ПРАЦЯРЭБЛІВАЦЬ* ● **ПРАЦЯР`ЭБЛІВАЦЬ САБ`Е ШЛ`ЯХ** *куды. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Настойлівымі намаганнямі дабівацца поспехаў у чым-н. **Сін**.: выбівацца ў людзі; выходзіць на арбіту; выходзіць у людзі; ісці ўгору (у 1 знач.); ісці ў людзі; далёка пайсці; прабіваць сабе дарогу (у 1 знач.); пракладаць сабе дарогу (у 1 знач.). *У драматургію працярэблівае сабе шлях досыць значны атрад новага папаўнення.* Крапіва. **ПРАЦЕРАБІЦЬ САБЕ ШЛЯХ** *куды. Зак. [Алесь] быў звычайным рабочым, які толькі нядаўна працерабіў сабе шлях у дарожныя майстры, ды і не паспеў нават паслужыць яшчэ майстрам!* Шынклер.

*ПРАЧЫСЦІЦЬ* ● **ПРАЧЫСЦІЦЬ МАЗГІ** *каму. Зак. да* **ПРАЧЫШЧАЦЬ МАЗГІ** *каму.*

*ПРАЧЫТАЦЬ* ● **ПРАЧЫТАЦЬ ПАМІЖ РАДКОЎ** *што. Зак. да* чытаць **ПАМІЖ РАДКОЎ** *што.*

*ПРАЧЫШЧАЦЬ* ● **ПРАЧЫШЧ`АЦЬ МАЗГ`І** *каму. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Павучаючы каго-н., уздзейнічаючы на каго-н., схіляць да іншага, пабуджаць змяніць паводзіны, погляды і пад. **Сін**.: прамываць мазгі *каму. — Вінтоўкі мы чысцім, а людзям прачышчаць мазгі яшчэ не маем часу, — нібыта разважаючы сам з сабою, гаварыў Салавей Малаковічу.* Грахоўскі. **ПРАЧЫСЦІЦЬ МАЗГІ** *каму. Зак. А ўсе разам яны [актывісты] дружна стараліся прачысціць мазгі дзвюм маладзенькім абівальшчыцам, якія нясмела заявілі, што шчасце ў каханні, у сямейнай згодзе.* Б.Стральцоў.

*ПРОБА* ● **ПР`ОБА ПЯР`А.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Першыя вынікі творчай дзейнасці. *Проба пяра зроблена, віват, а далей усё залежыць ад цябе... Толькі ад цябе самога.* Марчук. *На мінулым тыдні Віця атрымаў грамату за першае месца ў літаратурным конкурсе «проба пяра».* Кадзетава.

*ПРОБНЫ* ● **ПУСКАЦЬ ПРОБНЫ ШАР.** Гл. пускаць.

*ПРОБЫ* ● **ВЫС`ОКАЙ (ВЫШ`ЭЙШАЙ) ПР`ОБЫ.** *Азн. Функц. не зам.* Выключнай вартасці, якасці, дасканаласці, кваліфікацыі. Пра абстр. прадмет ці асобу. **Ант**.: нізкай пробы. *Тут, на Мазырскім нафтабудзе, Еўдакавец атрымаў загартоўку вышэйшай пробы.* «Звязда». *Верачка, мы не памыліліся. Гэта была правакацыя высокай пробы.* Машара.

**Н`ІЗКАЙ ПР`ОБЫ.** *Азн. Функц. не зам.* Дрэннай вартасці, якасці, дасканаласці, кваліфікацыі. Пра абстр. прадмет ці асобу. **Ант**.: высокай пробы. *Эстрадную тэлепраграму літаральна запаланіла рок-музыка нізкай пробы.* «Звязда». *Візіт дэлегацыі ў Мінск быў візітам добрай волі. Тое, з чым мы сутыкнуліся, ёсць палітыка нізкай пробы.* «Нар. воля».

**ПРОБЫ СТАВІЦЬ НЯМА ДЗЕ** *на кім.* Гл. няма.

*ПРОЙДЗЕНАГА* ● **ПАЎТАРЭННЕ ПРОЙДЗЕНАГА.** Гл. паўтарэнне.

*ПРОМАХ* ● **НЕ ПР`ОМАХ.** *Вык. Разм. Адабр. і неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Спрытны, кемлівы, не ўпусціць свайго. **Сін**.: не кыш-варона. *[Стары Верас:] Як я пагляджу, дык мой хлопец не промах: выбраў сабе дзяўчыну да пары.* Крапіва. *Поп не промах. Калі само шчасце ў рукі прыйшло, ведае ён, дзе яму месца даць.* Калюга. *А трактарыст гэты не промах, вось табе і ціхоня.* Шамякін.

*ПРОПАДАМ* ● **ПРАПАДЗІ ПРОПАДАМ** *што, хто.* Гл. прападзі.

*ПРОРВУ* ● **ЯК У ПР`ОРВУ** <u>*есці.*</u> *Акал. Разм. Неадабр.* Уволю і ненасытна, пражэрліва. **Сін**.: ад пуза (у 1 знач.); да адвалу; еш не хачу *чаго*; за трох дурных; колькі душа жадае; колькі ўлезе (у 1 знач.); на поўную губу (у 1 знач.); на ўсю губу; не ў свой дух; хоць жывот распераЖЫ; хоць распераЖЫся; як дурны на памінках; як на дзяды (у 1 знач.); як не ў сябе. *— Як у прорву ядуць! — не магла стрымацца мачыха.* Мележ. *Дванаццаць парасят. Пражорлівыя, шустрыя, паласаценькія. Месяц праходзіць, другі, яны, хоць і жаруць як у прорву, — не растуць, дый годзе.* Радкевіч.

*ПРОСА* ● **СОВАЦЬ НОСА НЕ Ў СВАЁ ПРОСА.** Гл. соваць.

**ЯК ПРОСА ПРАДАЎШЫ.** Гл. прадаўшы.

*ПРОСІМ* ● **М`ІЛАСЦІ ПР`ОСІМ (ПРАШ`У).** *Выкл. Разм.* Ветлівае запрашэнне прыйсці, прыехаць, увайсці, прыняць пачастунак і пад. *Міласці просім, будзьце ласкавы, заходзьце. А можа, коней у двор увесці?* Галавач. *[Гарлахвацкі:] Зайдзіце... А, міласці просім, Аляксандр Пятровіч!* Крапіва. *Андрэй Пятровіч! Вось маладзец! А я ўжо і веру страціла на тое, што ўбачу вас тут. Ну, міласці ж прашу.* Колас.

*ПРОСІЦЦА* ● **ПР`ОСІЦЦА Ў Р`УКІ** *што. Незак. Цяп. і пр.; адз. і мн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. ці канкр. прадмета. Вельмі лёгка дастаецца. **Сін**.: ідзе ў рукі *што*; плыве ў рукі *што. Два месяцы назад прывабіў яе [Вольгу] гэты кажушок, загарэўся зуб купіць яго — і вось ён сам просіцца ў рукі.* Шамякін. *Сюжэт будучай карэспандэнцыі сам просіцца ў рукі.* Навуменка. *А я толькі кажу, што тут заработкі ў рукі просяцца.* Лобан.

**ПР`ОСІЦЦА (-ЯЦЦА, ПРАС`ІЎСЯ, -ЛАСЯ, -ЛІСЯ) З ЯЗЫК`А** *ў каго, чыйго. Незак. Разм.* Часцей ужыв. пры дзейн., выраж. наз. *слова, імя, прозвішча* і пад. Вельмі хочацца сказаць. **Сін**.: просіцца на язык. — *Праўду ён кажа. — Што ж, гэта сама і ў мяне з языка просіцца...* Чорны. — *Эх ты, на свеце жывеш і нічога не ведаеш! — яна [Марылька] зарагатала. Відаць было, што нейкае слоўца просіцца з яе языка.* Чарнышэвіч.

**ПР`ОСІЦЦА (-ЯЦЦА, ПРАС`ІЎСЯ, -ЛАСЯ, -ЛІСЯ) НА ПАП`ЕРУ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Чакае свайго адлюстравання ў мастацкім творы. Пра вобраз, сюжэт і пад. *У кожнага, напэўна, знойдзецца шэраг пытанняў, якія ён прадумаў і вырашыў, шэраг вобразаў, якія просяцца на паперу...* Крапіва. *Дзесяткі вынашаных за апошнія гады сюжэтаў не давалі мне спакою, прасіліся на паперу.* Пальчэўскі. *Толькі празаічнымі творамі можна ахапіць тыя разгорнутыя палотны жыцця, якіх багата асела ў памяці і якія самі просяцца на паперу.* Ваданосаў.

**ПР`ОСІЦЦА (-ЯЦЦА, ПРАС`ІЎСЯ, -ЛАСЯ, -ЛІСЯ) НА ЯЗ`ЫК.** *Незак. Разм.* Часцей ўжыв. пры дзейн., выраж. наз. *слова, імя, прозвішча* і пад. Вельмі хочацца сказаць. **Сін**.: просіцца з языка *ў каго, чыйго. Мікола ўвайшоў у азарт. Глядзеў на дзесяткі незнаёмых вачэй, ды ўсё новыя думкі лезлі ў галаву, прасіліся на язык.* Бядуля. *Першае, што прасілася на язык, — гэта важнае, самае страшнае: «Расстраляць вас мала за такую работу ці «ў трыбунал цябе, у штрафную роту!»* Дамашэвіч. *Вочы яго [Ляксея] яшчэ больш звузіліся, на язык прасіліся абразлівыя словы, але такога, каб адразу ж абсекчы жонку, не знаходзілася.* Філіповіч.

**ПР`ОСІЦЦА (-ЯЦЦА, ПРАС`ІЎСЯ, -ЛАСЯ, -ЛІСЯ) У Р`ОТ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн., які абазначае назву ежы. Узбуджае апетыт. *У паветры пах ад іх [суніц] носіцца, сама ягадка ў рот просіцца.* Колас. *Не паспее маленькі курсант пераступіць парог сталоўкі, як перад ім на стале стаіць ужо міска духмянага, наварыстага баршчу, а ўслед за ёй спяшаецца талерка з кашай, так прамасленай, што сама ў рот просіцца.* Мяжэвіч. *У куфры цукру шэсць драбкоў — вялікая*

*спакуса! Ну, так і просяцца ў рот. А як жа ўзяць — палічана.* Скрыпка.

*ПРОСІЦЬ* ● **`ЕСЦІ НЕ ПР`ОСІЦЬ (-ЯЦЬ).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Не абцяжарвае каго-н. сваім існаваннем і можа спатрэбіцца. **Сін**.: за плячамі не насіць *што. — Бяры аўтамат... — А навошта ён мне? Адна замінка... А табе, глядзіш, спатрэбіцца... —Ну, няхай будзе; ён есці не просіць, — згадзіўся Кірыла.* Гурскі. — *Нашто нам дыван, адзін ёсць. — Есці ж не просіць. А дзе ты, як трэба, дастанеш?* А.Жук. *Дзядзька не раз прыносіў у хату гэту торбу і пералічваў [царскія] грошы. Цётка Фядора сварылася на дзядзьку... Дзядзька не згаджаўся — Яны есці не просяць.* Васілевіч.

**`ЕСЦІ ПР`ОСІЦЬ (-ЯЦЬ).** *Незак. Прост.* Ужыв. пры дзейн., які абазначае назву абутку ці яго асобныя часткі. Вельмі знасіўся, патрабуе рамонту (бот, чаравік, падэшва і пад.). **Сін**.: просяць кашы. *Па гразі хадзіць нялёгка, калі есці просіць бот,* Астрэйка. — *Просіць есці чаравік, — прыгледзеўшыся, бадзёра і, як здалося Травульку, чамусьці радасна пацвердзіў Адзінец.* Дайнека. *Што твае боты ваксаваць? Яны ўжо есці просяць, цвікоў ім трэба, а не бляску.* «Звязда».

*Морда* **ЦАГЛ`ІНЫ ПР`ОСІЦЬ.** *Вык. Прост. Пагард.* Тоўстая, тлустая, сытая, звычайна чырванаватага колеру. – *І хто яго бачыў? – Каго? – Шышку. – Люба мая бачыла. Морда, кажа, во – што ражка. Цагліны просіць. Быццам з курорта прыехаў, а не з Магадана. Толькі шрам. На шчацэ, як у разбойніка.* Шамякін. *Го, ён [Чарапіцкі] цяпер вялікі пан, морда чырвоная, цагліны просіць...* Пестрак. *Ну і дылда! Морда цагліны просіць, а ён адно ведае – клянчыць капеечкі. А трасцы не хацеў?* Аношкін. *А тут нейкі хлюст – і адкуль ён толькі ўзяўся – ідзе мне насустрач. Морда – цагліны просіць.* Чавускі.

*ПРОСТА* ● **ПР`ОСТА З М`ОСТА.** *Акал. Разм.* Адразу ж, раптоўна, зусім не падумаўшы (рабіць што-н.). **Сін**.: заплюшчыўшы вочы; з бухты-барахты; з завязанымі вачамі; з кандачка; з налёту (у 3 знач.); з наскоку (у 2 знач.); на зламанне карка (у 1 знач.); на злом галавы (у 1 знач.); на скрут галавы (у 1 знач.). **Ант**.: з адкрытымі вачамі. *Узяцца проста з моста за гэтую справу, нарабіць так можна шкоды для дзяржавы.* Купала. *Сама пані з двара заказала ў яго начоўкі, цабры, вёдры і некалькі лыжак. Трэба доўга рыхтавацца. Адразу, проста з моста, не прымешся за такую працу.* Бядуля. *Адэля пачала падлізвацца да хлопцаў. Думала, што тыя проста з моста аддадуць ёй сваё, большыя, чым у Адэлі няшчасныя квадратныя метры.*

Семашкевіч.

*ПРОСТАГА* ● **ПРАСЦЕЙ ПРОСТАГА.** Гл. прасцей.

*ПРОСТАЯ* ● **ПРОСТАЯ АРЫФМЕТЫКА.** Гл. арыфметыка.

*ПРОСЯЦЬ* ● **ПР`ОСЯЦЬ (ПРАС`ІЛІ) К`АШЫ.** *Незак. Разм. Жарт.-іран.* Ужыв. пры дзейн., якi абазначае назвы абутку. Вельмi знасiлiся, патрабуюць рамонту (чаравiкi, боты i пад.). **Сін**.: есцi просiць. *Яны [чаравікі] здорава прасiлi кашы i зараз хапалi зяпамi халодны снег.* Міська. *Выхавацелька пастроiла хлопцаў у калiдоры, агледзела iх абутак. У чатырох чаравiкi даўно ўжо прасiлi кашы.* Казько. *На правым боце падэшва адвалiлася, быццам падрэзаная па канту, на левым таксама ледзь лiпела. — Каiны просяць, — прамовiў Лагуцiн са смяшком.* Савіцкі. *[Маці:] А яшчэ заўважыла, што ў яго [карэспандэнта] чаравiкi кашы просяць.* М.Капыловіч.

*ПРОЦЬМА* ● **Ч`ОРТАВА ПР`ОЦЬМА (ЦЬМ`А)** *каго, чаго. Мн. не ўжыв. У безас. ужыв. Разм.* Вельмi многа, у вялiкай колькасцi. Пра людзей цi неадуш. прадметы. **Сін**.: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без лiку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валiцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гiбелi *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да лiха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставiш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; iмя *каму, чаму* легiён; канца-краю не вiдаць *чаму* (у 3 знач.); колькi ўлезе (у 2 знач.); колькi хочаш (у 1 знач.); мора разлiўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спiшаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькi (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кiшэнi па жменi *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гацi *каго, чаго, кiм, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць залiся *чаго*; <хоць> плот гарадзi *кiм, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гiбель *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразi *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. За ўвесь час.. было.. нагаворана ўсяго-ўсякага чортава процьма.* Гартны. *— Вы хочаце сказаць, што ў вас i перажыткаў ужо няма? — Можа, якiя яшчэ i асталiся, хто iх усiх ведае. Iх жа чортава процьма на свеце.* Васілёнак. *— Не ведаеш, як многа тут палякаў?.. — Многа! — панiзiў голас Панас, — не меней як дзвесце! Ды кажуць, што i ў Вепрах iх чортава цьма.* Колас.

*ПРЫАДКРЫВАЦЬ* ● **ПРЫАДКРЫВАЦЬ ЗАСЛОНУ** *над чым.* Гл. прыўзнімаць.

*ПРЫАДКРЫЦЬ* ● **ПРЫАДКРЫЦЬ ЗАСЛОНУ** *над чым. Зак. да* **ПРЫАДКРЫВАЦЬ ЗАСЛОНУ** *над чым.*

*ПРЫБАВІЦЬ* ● **НІ ЎБАВІЦЬ НІ ПРЫБАВІЦЬ.** Гл. убавіць.

*ПРЫБ'ЕШ* ● **ДАЎБН`ЁЙ НЕ ПРЫБ'`ЕШ** *каго. У безас. ужыв. Праст.* Хто-н. здаровы, моцны, не слабы здароўем. **Ант**.: сопляй пераб'еш. *—Ды ліха цябе, Макарыха, не возьме. Яшчэ даўбнёй не прыб'еш... — пацяшае яе высокая без хусткі суседка.* Бядуля.

*ПРЫБІВАЦЦА* ● **ПРЫБІВ`АЦЦА ДА Б`ЕРАГА** *якога. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знаходзіць якое-н. месца для пастаяннага жыцця. **Сін**.: прытуліць галаву *дзе, да каго. [Шагалей:] Слухай, што я табе скажу: кідай горад, кідай летнія вандроўкі па лесе. Прыбівайся да надзейнага берага, пераходзь з усёй сваёй сям'ёй і раднёй у наш калгас.* Э.Валасевіч. **ПРЫБІЦЦА ДА БЕРАГА** *якога. Зак. Шмат хто з тых людзей, сярод якіх ён [Вялічка] жыў дагэтуль, маглі думаць, што натура гэтая неспакойная і неўраўнаважаная і доўга яна будзе кідацца па свеце, пакуль прыб'ецца да свайго берага.* Чорны.

*ПРЫБІВАЦЬ* ● **ПРЫБІВ`АЦЬ ДА ГАН`ЕБНАГА СЛ`УПА** *каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Клеймаваць, ганьбіць, сурова бічаваць каго-н. **ПРЫБІЦЬ ДА ГАНЕБНАГА СЛУПА** *каго. Зак. Шаройку прыйшоў канец, яго, як кажуць, прыбілі да ганебнага слупа, калі супраць яго чарговай кражы абурыліся ўсе калгаснікі, увесь калектыў.* Шамякін. *[Герцэн] надрукаваў фельетон «Партрэт Мураўёва», у якім навечна прыбіў да ганебнага слупа гэтага царскага сатрапа.* Сачанка.

*ПРЫБІРАЦЬ* ● **ПРЫБІР`АЦЬ ДА Р`УК.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. *каго.* Поўнасцю падпарадкоўваць сабе, сваёй волі. **Сін**.: браць верх (у 1 знач.); браць у <свае> рукі (у 1 знач.); віць вяроўкі *з каго*; выкручваць сырыцу *з каго*; ездзіць вярхом *на кім*; ездзіць на карку *чыім*; запрагаць у аглоблі *каго*; надзяваць аброць *на каго, на што*; надзяваць хамут *на каго*; надзяваць ярмо на шыю *каго, каму*; падмінаць пад сябе *што, каго*; садзіцца на галаву *каму*; садзіцца на карак *каму, чый, каго* (у 1 знач.); сціскаць у кулак *каго*; убіраць у <свае> рукі (у 1 знач.). **ПРЫБРАЦЬ ДА РУК** *каго. Зак. [Шукайла:] Увесь двор да сваіх рук прыбрала. Князь робіць усё, што яна захоча. Спрытная дзеўка!* В.Вольскі. *Суцешыла яго сэрца Мілка, прыбрала да рук. Жывуць, здаецца, добра, двое дзяцей — пагодкаў.* Міська. *Маладзец Люба, што патрапіла прыбраць аграномa да рук. Чаго там ныць? Дурная будзе, калі ўпусціць такога чалавека...*

Васілевіч.

**2**. *што. Неадабр.* Завалодваць чым-н., прысвойваць што-н. **Сін**.: браць у <свае> рукі (у 3 знач.); залазіць у кішэнь *чыю, каму, каго*; запускаць ляшча; запускаць руку *ў што, куды*; класці ў <сваю> кішэнь *што*; накладваць лапу (у 1 знач.); убіраць у <свае> рукі (у 2 знач.). **ПРЫБРАЦЬ ДА РУК** *што. Зак. Гэта быў добры тавар, замежнай работы, ён не залежыцца, каб толькі прыбраць да рук...* Самуйлёнак. *Бабейка — дзялок, ён умее выкручвацца, праўдамі і няпраўдамі прыбраць да рук, што дрэнна ляжыць.* Хадкевіч. *[Асаднік] думаў тут навек укараніцца і ўсё загрэбці, усё прыбраць да рук...* Гілевіч.

**ПРЫБІР`АЦЬ З ДАР`ОГІ** *каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знішчаць каго-н., хто перашкаджае ў дасягненні якой-н. мэты. **Сін**.: адарваць галаву *каму* (у 1 знач.); адкруціць галаву *каму* (у 1 знач.); адпраўляць на той свет *каго*; адпраўляць у магілёўскую губерню *каго*; вымаць душу *з каго, каму* (у 2 знач.); вымотваць жылы (у 3 знач.); вымотваць кішкі (у 2 знач.); выпусціць дух (у 3 знач.); выпусціць кішкі <*каму*>; вытрасці душу *з каго, каму* (у 2 знач.); гнаць у магілу *каго*; заганяць на той свет *каго*; зводзіць са свету *каго* (у 1 знач.); зводзіць у магілу *каго*; звярнуць галаву *каму*; зжываць са свету *каго*; знімаць галаву *каму* (у 1 знач.); скруціць вязы *каму*; скруціць шыю *каму*. **ПРЫБРАЦЬ З ДАРОГІ** *каго. Зак. Можам яго прыбраць з дарогі — вайна ёсць вайна.* Кулакоўскі. *І з некаторага часу вы здагадаліся, куды вядзе мяне ў гэтым лабірынце мая ніць. І тады я стаў непатрэбны... Вам цяпер трэба абавязкова прыбраць мяне з дарогі. Каб не перашкаджаў.* Караткевіч.

**ПРЫБІРАЦЬ У <СВАЕ> РУКІ.** Гл. убіраць.

*ПРЫБІТЫ* ● **ЯК ПЫЛЬНЫМ МЯШКОМ ПРЫБІТЫ.** Гл. ударany.

*ПРЫБІЦЦА* ● **ПРЫБІЦЦА ДА БЕРАГА** *якога. Зак. да* **ПРЫБІВАЦЦА ДА БЕРАГА** *якога.*

*ПРЫБІЦЬ* ● **ПРЫБІЦЬ ДА ГАНЕБНАГА СЛУПА** *каго. Зак. да* **ПРЫБІВАЦЬ ДА ГАНЕБНАГА СЛУПА** *каго.*

*ПРЫБРАЦЬ* ● **ПРЫБРАЦЬ З ДАРОГІ** *каго. Зак. да* **ПРЫБІРАЦЬ З ДАРОГІ** *каго.*

**ПРЫБРАЦЬ У <СВАЕ> РУКІ.** *Зак. да* **ПРЫБІРАЦЬ У <СВАЕ> РУКІ.**

*ПРЫБЫЛО* ● **Н`АШАГА ПАЛК`У ПРЫБЫЛ`О (ПРЫБЫВ`АЕ).** *У безас. ужыв. Разм. Адабр.* Нас стала больш, прыбавілася такіх людзей, як мы. *[Клава:] Гэта друг таварыша Язвы, паэт. [Жлукта:] Значыць, нашага палку прыбыло.* Крапіва. *Ага, нашага палку прыбыло! Здарова, брат, здарова! У нас на мужчын небагата.* Валасевіч.

*[Балук:] Эй, народ лапцюжны, сярмяжны, слухай: нашага палку прыбывае. Бацька Талаш, госця сустракай!* Колас. *О-о... Гэта ўжо зусім прыемна, зусім прыемна. Можна сказаць, нашага палку прыбывае. Вітаю, вітаю вас, Канстанцін Сяргеевіч!* Лынькоў.

*ПРЫВЕСЦІ* ● **ПРЫВЕСЦІ ДА АГУЛЬНАГА НАЗОЎНІКА.** *Зак. да* **ПРЫВОДЗІЦЬ ДА АГУЛЬНАГА НАЗОЎНІКА.**

**ПРЫВЕСЦІ Ў СЯБЕ** *каго. Зак. да* **ПРЫВОДЗІЦЬ Ў СЯБЕ** *каго.*

*ПРЫВЕТАМ* ● **З ПРЫВ`ЕТАМ** . *Вык. і азн. Праст. Іран.* Ужыв. пры наз. са знач. асобы. Дзівакаваты, з незвычайнымі паводзінамі, звычаямі і пад. **Сін.**: без галавы; без клёпкі ў галаве; без цара ў галаве. **Ант.**: з галавой (у 1 знач.); з царом у галаве (у 1 знач.); светлая галава; у цемя не біты. *Па Наўі адразу пайшлі чуткі, што сваяк выйшаў з псіхіятрычнай бальніцы. Дый гэта ад пачатку было відаць, што чалавек «з прыветам» – з выгляду, як бадзяга, да сялянскай працы не змусіш….* Рублеўская. *Асабліва касавурацца, калі выручку здаю… Аднойчы ўзнікае перада мной Таццяна Фёдараўна… Кажа: – Ты што, Аксана, з прыветам? Да якога часу ў цябе будзе «капейка ў капейку»?!* Палітыка. *І тут ён сам сабе зарагатаў. Жонка прачнулася і спалохана ўтупілася ў яго. Яна заўсёды падазравала, што ён «з прыветам».* Асташонак. *Дзед Нікодым быў для многіх чалавекам незразумелым, дзіваком, адзінотнікам, чалавекам «з прыветам», які не падобны ні на каго з тутэйшых людзей – і адзеннем, і думкамі, і паводзінамі, і ладам жыцця…* Бароўскі.

*ПРЫВОДЗІЦЬ* ● **ПРЫВ`ОДЗІЦЬ ДА АГ`УЛЬНАГА НАЗ`ОЎНІКА.** *Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ліквідуючы адрозненні, ураўноўваць што-н. у якіх-н. адносінах. **ПРЫВЕСЦІ ДА АГУЛЬНАГА НАЗОЎНІКА.** *Зак. Звер мае прапановы са сваімі варыянтамі і.. прывядзі да агульнага назоўніка.* Куляшоў.

**ПРЫВ`ОДЗІЦЬ У СЯБ`Е** *каго. Незак. Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Прымушаць супакоіцца, апамятацца; выводзіць са стану разгубленасці, задуменнасці і пад. *Не прывяла ў сябе гасцей князёўна Ваця. Яна з'явілася ў залу такою вясёлаю, што, здавалася, пасвятлелі хмурыя сцены і суровыя твары нейкіх рыцараў, намаляваных на столі.* Нёманскі. **ПРЫВЕСЦІ Ў СЯБЕ** *каго. Зак. Гром апладысментаў прывёў.. [Любу] у сябе.* Васілевіч.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Выводзіць са стану непрытомнасці. *Лекар нядоўга прыводзіў Васіля ў сябе.* «Маладосць». **ПРЫВЕСЦІ Ў СЯБЕ** *каго. Зак.*

*ПРЫВЯДЗІ* ● **НЕ ДАЙ І НЕ ПРЫВЯДЗІ.** Гл. дай.

*ПРЫВЯДЗЕННЕ* • **ПРЫВЯДЗ`ЕННЕ** *чаго-н.* **ДА АДЗ`ІНАГА НАЗ`ОЎНІКА**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Ураўноўванне чаго-н. у якіх-н. адносінах з нівеліраваннем некаторых адметнасцей. *Патрабуецца прывядзенне мастацкай сутнасці твора да адзінага назоўніка.* І.Жук.

*ПРЫВЯДУЦЬ* • **НОГІ ПРЫВЯДУЦЬ** *каго. Зак. да* **НОГІ ВЯДУЦЬ** *каго.*

*ПРЫВЯЗІ* • **ТРЫМАЦЬ НА ПРЫВЯЗІ** *каго.* Гл. трымаць.

**ТРЫМАЦЬ ЯЗЫК НА ПРЫВЯЗІ.** Гл. трымаць.
**ЯК З ПРЫВЯЗІ САРВАЎСЯ.** Гл. сарваўся.
**ЯК З ПРЫВЯЗІ САРВАЎШЫСЯ.** Гл. сарваўшыся.

*ПРЫГАРШЧЫ* • **З Ж`АБІНЫ ПР`ЫГАРШЧЫ** *чаго. У безас. ужыв. Разм.* Вельмі мала (шчасця, радасці, здароўя і пад.). **Сін**.: з верабё̆ў нос (у 1 знач.); з камароў нос (у 1 знач.); з макава зерне; кропля ў моры <*чаго*>; курам на смех (у 3 знач.); на жабін скок (у 2 знач.); на заячы скок; на капейку; на макава зерне; на пальцах можна пералічыць *каго, што*; на панюх табакі (у 1 знач.); на шэлег (у 1 знач.); не поле насеяна *каго*; раз-два і ўсё *каго, чаго*; як кату; <як> кот наплакаў *каго, чаго*; як старой бабе сесці *чаго. У яе сястры Волькі таксама шчасця было з жабіны прыгаршчы.* Наварыч. *Ёсць у мяне маладзец, ён дадому завядзець. Маладым табе не роўня. І не знойдзет горшага. Дай жа бог яму здароўя з жабіны прыгоршчыкі!* Барадулін. — *Хіба маладым не быў? Хіба радасці... шчасця не бачыў? — Было шчасце. З жабіны прыгаршчы.* Кажадуб.

*ПРЫГНАЛА* • **БУРА ПРЫГНАЛА** *каго.* Гл. бура.

**НЯЛЁГКАЯ ПРЫГНАЛА** *каго.* Гл. нялёгкая.
**НЯЧЫСТАЯ <СІЛА> ПРЫГНАЛА** *каго.* Гл. сіла.
**ТРАСЦА ГОНІЦЬ (ПРЫГНАЛА).** Гл. трасца.

*ПРЫГНАЎ* • **ЧОРТ ПРЫГНАЎ** *каго.* Гл. чорт.

*ПРЫГОЖЫ* • **ПРЫГОЖЫ ПОЛ.** Гл. пол.

*ПРЫГОЖЫЯ* • **ЗА ПРЫГОЖЫЯ ВОЧЫ.** Гл. вочы.

*ПРЫГОНІЦЬ* • **ЛІХА ПРЫГОНІЦЬ** *каго.* Гл. ліха.

*ПРЫГРЭЦЬ* • **ПРЫГРЭЦЬ ЗМЯЮ НА СВАІХ ГРУДЗЯХ.** *Зак. да* **ГРЭЦЬ ЗМЯЮ НА СВАІХ ГРУДЗЯХ.**

*ПРЫДАЧУ* • **У ПРЫД`АЧУ.** *Акал. Разм.* Апрача ўсяго, звыш таго. **Сін**.: у дадатак *да чаго. Які ж ён мужык, ён жа больш граматны і за мяне, і за вас, і за Пранаса Парэчкуса ў прыдачу.* Броўка. *Няма ні ратунку, ні выйсця. А тут у прыдачу яшчэ Серафім пад'ехаў, а з ім паліцаяў дзесятак.* Зарэцкі.

*ПРЫЕХАЎ* • **З ГАЛ`ОДНАГА КР`АЮ <ПРЫ`ЕХАЎ>.** *Разм.* Ужыв. пры

дзейн. са знач. асобы. Вельмі галодны, моцна прагаладаўся. *Мы не з галоднага краю прыехалі, каб у цябе тут палуднаваць без гаспадыні.* Сабаленка. *Барадач наліў Міхеду вару церпкага з гляка. — Не з галоднага я краю, сам ты ведаеш, Каўпак.* Астрэйка. *Таварышы, што ж вы робіце? Хіба вы з галоднага краю прыехалі?.. Вы ж болей стопчаце, чым вырвеце...* Дайліда. *Паглядзіш на такога, і падумаецца: з галоднага краю чалавек.* І.Капыловіч.

*ПРЫЗМУ* ● **ПРАЗ ПР`ЫЗМУ** *чаго. Акал. Кніжн.* З пазіцый чаго-н. (глядзець, ацэньваць і пад.). *На ўсё навакольнае.. [Алесь] глядзеў праз прызму сваёй справы.* Броўка. *Многія важныя падзеі падаюцца ў кнізе праз прызму ўспрымання падлетка Язэпа — гэта вельмі ўдалы ракурс для дзіцячай кніжкі.* Кісялёў.

*ПРЫЙДЗЕ* ● **ПРЫЙДЗЕ КОЗА ДА ВОЗА.** Гл. коза.

*ПРЫЙСЦІ* ● **ПРЫЙСЦІ ДА РОЗУМУ.** *Зак. да* **ПРЫХОДЗІЦЬ ДА РОЗУМУ.**

**ПРЫЙСЦІ ДА СЯБЕ.** *Зак. да* **ПРЫХОДЗІЦЬ ДА СЯБЕ.**

**ПРЫЙСЦІ НА ДУМКУ** *каму. Зак. да* **ПРЫХОДЗІЦЬ НА ДУМКУ** *каму.*

**ПРЫЙСЦІ НА СВЕТ.** *Зак. да* **ПРЫХОДЗІЦЬ НА СВЕТ.**

**ПРЫЙСЦІ НА ЯЗЫК** *каму. Зак. да* **ПРЫХОДЗІЦЬ НА ЯЗЫК** *каму.*

**ПРЫЙСЦІ Ў ГАЛАВУ** *каму. Зак. да* **ПРЫХОДЗІЦЬ У ГАЛАВУ** *каму.*

**ПРЫЙСЦІ Ў СЯБЕ.** *Зак. да* **ПРЫХОДЗІЦЬ У СЯБЕ.**

*ПРЫЙШЛО* ● **ПРЫЙШЛО Ў РУКІ** *каму што. Зак. да* **ІДЗЕ Ў РУКІ** *каму што.*

*ПРЫКЛАД* ● **БРАЦЬ ПРЫКЛАД** *з каго.* Гл. браць.

**НЕ Ў ПР`ЫКЛАД** *каму, чаму. Акал. Функц. не зам.* У адрозненне ад каго-, чаго-н., не так, як хто-, што-н. *Сушэвічаў бацька, не ў прыклад Крамарэвічаваму бацьку, зямлі не араў і хлеба не сеяў, а пускаў у ход дробную капейчыну і хацеў пакласці ў кішэню дзве.* Чорны. *Гаспадыня засцілае настольнікам стол. Не ў прыклад хударляваму, шчуплаватаму мужу, яна поўная, мажная.* Навуменка. *Прыгарад — не ў прыклад прылеглым вёскам — быў не цёмны, а шчодра асвечаны.* Далідовіч.

*ПРЫКЛАДАЙ* ● **ХОЦЬ <ТЫ> ДА РАНЫ ПРЫКЛАДАЙ** *каго.* Гл. кладзі.

*ПРЫКЛАДАЦЬ* ● **ПРЫКЛ`АДВАЦЬ РУК`У** *да чаго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Падпісваць які-н. дакумент, паперу. *Амаль год доўжылася перапіска Аляксандра з выхавальнікамі дзіцячага дома. Нярэдка да іх пасланняў прыкладваў руку і Герка. Тады на аркушах, спісаных няроўным почыркам дырэктара дзіцячага дома, паяўляліся*

*рознакаляровыя кружочкі, квадрацікі...* «Настаўн. газ.» **ПРЫКЛАСЦІ (ПРЫЛАЖЫЦЬ) РУКУ** *да чаго. Зак.* [Параўн. «амалоджанае» ўжыванне фразеалагізма з заменай яго назоўнікавага кампанента ў байцы К.Крапівы «Заява»: «Я, *прылажыўшы* ніжэй *капыты*, заяўляю аб тым, што з ўсёю раднёю не хачу болей звацца Свіннёю...».]

*ПРЫКЛАДВАЦЬ* ● **ПРЫКЛ`АДВАЦЬ РУК`У (-І).** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. *да каго.* Біць каго-н. **Сін**.: даць ляшча *каму*; партрэт папраўляць *каму. Загадчыца магазіна.. не толькі парушае правілы савецкага гандлю, але і прыкладвае руку... да пакупнікоў. Прасцей кажучы, б'е.* «Вожык». **ПРЫКЛАСЦІ (ПРЫЛАЖЫЦЬ) РУКУ (-І)** *да каго. Зак. На срабрыстых маланках у правай пятліцы эсэсаўца пырскі крыві — мусіць, і ён прыклаў рукі да Кіма.* Міськo. *Раззлаваныя хлопцы добра прыклалі рукі да бандытаў.* Арабей.

**2**. *<да чаго>.* Мець дачыненне да чаго-н. заганнага, прымаць удзел у чым-н. нядобрым. **ПРЫКЛАСЦІ (ПРЫЛАЖЫЦЬ) РУКУ (-І)** *<да чаго>*. *Зак. [Гудзееў:] Тут скаргі калгаснікаў. Праўда, без подпісаў. Прызнайся, ты прыклаў руку? [Самасееў:] Ёсць і мая работа.* Макаёнак. *[У Бялградзе] шырокія зялёныя праспекты і вуліцы, шматфарбныя, поўныя руху плошчы. Там-сям прыклалі рукі фармалісты.* Панчанка.

*ПРЫКЛАДЗІ* ● **ХОЦЬ <ТЫ> ДА РАНЫ ПРЫКЛАДЗІ** *каго.* Гл. кладзі.

*ПРЫКЛАДУ* ● **ГАЛАВ`Ы НЕ ПРЫКЛАД`У.** *Зак. Толькі ў гэтай форме. Вык. Разм.* Не магу зразумець, уцяміць што-н. **Сін**.: розуму не дабяру. *— Як жа ты цяперака, Ніначка?.. Я ўжо думала, думала. Галавы не прыкладу, як табе жыць.* Новікаў. *І гэта яна праз год будзе настаўніцай! Як ты будзеш вучыць дзяцей, галавы не прыкладу.* Арабей. *І сама неяк галавы не прыкладу... Раней дык якое шалудзівае свінчо здохне, і то тры дні галосіш па ім, а тут, можна сказаць, усё загінула — і хоць бы адна слязінка.* Шахавец.

*ПРЫКЛАСЦІ* ● **ПРЫКЛ`АСЦІ (ПРЫЛАЖ`ЫЦЬ) Р`УКІ** *да чаго, дзе. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Заняцца чым-н., пачаць рабіць што-н. **Сін**.: заняць рукі *за што, дзе*; зачапіць рукі *за што. І не хацелася з гэтай прычыны ісці дадому на свой двор. Не было там да чаго рук прыкласці.* Галавач. *Тут павінна быць ураджайная зямля, чарназёмная! Хай толькі чалавек рукі прыкладзе, які ж тут ураджай можа зашумець!* Каваль. *[Павел] падумаў, што кепска быць вось так без пэўнай працы. У школе яшчэ няма да чаго прыкласці рук...* Далідовіч. *Цесна ў свеце стала жыць, нібы сціснулі ўсім волю, рук няма дзе прылажыць.* Колас. *Не хачу я так, Алёшачка, на дарэмным.*

*Працаваць хачу. Абы-дзе буду працаваць. Дзе рукі можна прылажыць. Я ўсё магу рабіць.* Лобан.

**ПРЫКЛАСЦІ РУКУ.** *Зак. да* **ПРЫКЛАДВАЦЬ РУКУ.**

*ПРЫКЛЕІЦЬ* ● **ПРЫКЛЕІЦЬ ЯРЛЫК** *<каму, на каго, на што>. Зак. да* **ПРЫКЛЕЙВАЦЬ ЯРЛЫК** *<каму, на каго, на што>.*

*ПРЫКЛЕЙВАЦЬ* ● **ПРЫКЛ`ЕЙВАЦЬ (ПРЫЛ`ЕПЛІВАЦЬ) ЯРЛ`ЫК** *<каму, на каго, на што>. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці няпэўнай сукупнасці асоб. Аднабакова, шаблонна ацэньваць, характарызаваць каго-, што-н. **Сін**.: вешаць ярлык *<каму, на каго, на што>*; прышываць ярлык *каму.* **ПРЫКЛЕІЦЬ (ПРЫЛЯПІЦЬ) ЯРЛЫК** *<каму, на каго, на што>. Зак. «Чаго добрага — прыклеяць ярлык, і, як водзіцца, надоўга. І што б потым ні рабілі, як бы ні працавалі, нічога не паможа», — падумаў Сасноўскі.* Карпаў. *Бывае, што ярлык прылепяць здуру, і корчыць той з сябе «фігуру», а як прыгледзішся — перад табой цвыркун запечны.* Э. Валасевіч.

*ПРЫКЛЁПУ* ● **ДЛЯ (ДЗ`ЕЛЯ) ПРЫКЛ`ЁПУ.** *Акал. Праст.* Каб стварыць пэўнае ўражанне. **Сін**.: дзеля гадзіся; для адводу вачэй; для блізіру; для віду; для вока; для понту; для прыліку; з понтам. *Хоць і не ведала яна [Лена] вялікіх падпольных спраў, але здагадвалася, што ўся гэтая майстэрня існуе, відаць, для прыклёпу...* Лынькоў. *Замок пацягні і адчыніцца. Так, для прыклёпу вісіць.* Грахоўскі. *Панятыя і ў таго гаспадара толькі дзеля прыклёпу стаяць у парозе. Нідзе свайго носа не ўтыкаюць.* Калюга.

*ПРЫКМЕЦЕ* ● **НА ПРЫКМЕЦЕ** *ў каго.* Гл. прымеце.

*ПРЫКОЛ* ● **НА ПРЫК`ОЛ** <u>*ставіць (паставіць)*</u> і пад. *Акал. Праст.* У неэксплуатацыйнае становішча, без выкарыстання. Пра машыны. *Ведаеш, Коля, пра што я падумаў. Ездзіць, як бачыш, цяпер ужо не сезон. Так што хочаш ці не хочаш, а «Масквіча» прыйдзецца ставіць на прыкол.* Шахавец. *Стаіць цудоўнае надвор'е, зжатыя валкі можна было б праз дзень-другі падбіраць. А тут па прывычцы чакаюць і тэхніку паставілі на прыкол* «Звязда».

*ПРЫКОЛЕ* ● **НА ПРЫК`ОЛЕ** <u>*стаяць, быць*</u> і пад. *Акал. Праст.* У неэксплуатацыйным становішчы, без выкарыстання. Пра машыны. — *Скажаш, і ўгнаенні ляжаць па нашай віне? — Па вашай. Тэхнікі на прыколе ў вас болей, чым у калгасах. Ведаю, як сялу памагаеце. Абы грошы садраць...* Навуменка. *Там жа, у лесе, стаяць «на прыколе» машыны, там таварышы прыціхлі ў невядомасці і чаканні.* Марціновіч.

*ПРЫКУРЫЦЬ* ● **ДАВАЦЬ ПРЫКУРЫЦЬ** *каму.* Гл. даваць.

*ПРЫКУСВАЦЬ* ● **ПРЫК`УСВАЦЬ ЯЗ`ЫК (-І).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Раптоўна змаўкаць, устрымлівацца ад размовы. **Сін**.: наступаць сабе на язык; павесіць <сабе> замок на рот: праглынуць язык; прышчаміць язык. *На памяць усплывалі з'едлівы шчарбаты смех і дотык рукі, і Агей адразу прыкусваў язык.* Крапіва. *Самыя языкастыя нахабнікі пры Галіне прыкусвалі языкі.* Грахоўскі.

**ПРЫКУСІЦЬ ЯЗЫК (-І).** *Зак. — Яшчэ б ды спадабацца! — дадаў Пятрусь. — Вось няхай прыкусяць языкі. Ападзе ўвесь гонар пасля гэтага.* Гартны. *— Ну, ну! — пагразіў стражнік. — Прыкусі язык.* Якімовіч. *Гэта ж добра, што я ў час прыкусіў язык і не назваў сваю вёску.* Ракітны.

*ПРЫКУСІЦЬ* ● **ПРЫКУСІЦЬ ЯЗЫК.** *Зак. да* **ПРЫКУСВАЦЬ ЯЗЫК.**

*ПРЫЛАЖЫ* ● **ХОЦЬ <ТЫ> ДА РАНЫ ПРЫЛАЖЫ** *каго.* Гл. кладзі.

*ПРЫЛАЖЫЦЬ* ● **ПРЫЛАЖЫЦЬ РУКІ** *да чаго, дзе.* Гл. прыкласці.

**ПРЫЛАЖЫЦЬ РУКУ.** *Зак. да* **ПРЫКЛАДВАЦЬ РУКУ.**

*ПРЫЛАЎКА* ● **З-ПАД ПРЫЛ`АЎКА.** *Акал. Разм.* Скрытна, цішком, непрыкметна для іншых (даставаць, набываць, купляць, прадаваць і пад.). *Набыўшы ў хаўрусніка з-пад прылаўка адрэз дэфіцытнай тканіны альбо імпартныя боцікі ці чаравікі, [Стасік] тут жа рэалізоўваў іх...* Макаёнак. *Тое-сёе Люба прадае з-пад прылаўка і, кажуць, трохі мае за дэфіцытны тавар.* І.Капыловіч. *Прыхапілі тут кантралёры аднаго аматара дастаць з-пад прылаўка смачнейшы кавалак.* Варановіч.

*ПРЫЛЕПЛІВАЦЬ* ● **ПРЫЛЕПЛІВАЦЬ ЯРЛЫК** *<каму, на каго, на што>.* Гл. прыклейваць.

*ПРЫЛІВАЕ* ● **КРОЎ ПРЫЛІВАЕ ДА ТВАРУ** *чыйго, каму.* Гл. кроў.

*ПРЫЛІКУ* ● **ДЛЯ (ДЗ`ЕЛЯ) ПРЫЛ`ІКУ.** *Акал. Праст.* Каб стварыць пэўнае ўражанне, з меркаванняў прыстойнасці. **Сін**.: дзеля гадзіся; для адводу вачэй; для блізіру; для віду; для вока; для понту; для прыклёпу; з понтам. *[Максім:] Ідзі, ідзі... Хоць бы для прыліку параіўся з бацькам.* Макаёнак. *— Дзякую, дзякую, — для прыліку пачаў адмаўляцца я, хоць есці хацелася так, што аж жывот падцягвала.* Сабаленка. *Юля толькі дзеля прыліку далікатна пастукала і зайшла ў лепшую палавіну, пры такім шуме яе ўсё роўна ніхто не мог пачуць.* Далідовіч.

*ПРЫЛІП* ● **ЖЫВОТ ДА СПІНЫ ПРЫЛІП** *чый, у каго.* Гл. жывот.

**ЯЗЫК ПРЫЛІП <ДА ЗУБОЎ>** *у каго, каму.* Гл. язык.

*ПРЫЛЯПІЦЬ* ● **ПРЫЛЯПІЦЬ ЯРЛЫК** *<каму, на каго, на што>. Зак. да* **ПРЫЛЕПЛІВАЦЬ ЯРЛЫК** *<каму, на каго, на што>.*

*ПРЫМАЕ* ● **ДУША НЕ ПРЫМАЕ** *чыя чаго.* Гл. душа.

*Што* **ДУША ПРЫМАЕ** *<чыя>.* Гл. душа.

**КОЛЬКІ ДУША ПРЫМАЕ.** Гл. душа.

*ПРЫМАЎКУ* ● **УВАЙСЦІ Ў ПРЫМАЎКУ.** Гл. увайсці.

*ПРЫМАЦЬ* ● **ПРЫМАЦЬ <БЛІЗКА> ДА СЭРЦА** *<што>.* Гл. браць.

**ПРЫМАЦЬ ГРЭХ НА <СВАЮ> ДУШУ.** Гл. браць.

**ПРЫМ`АЦЬ НА СВ`ОЙ РАХ`УНАК (К`ОШТ)** *што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Лічыць, што што-н. адносіцца да сябе. **ПРЫНЯЦЬ НА СВОЙ РАХУНАК (КОШТ)** *што. Зак. Алесь ўсё зразумеў. І тыя згрызоты, што тачылі сэрца, і Церашонкава «не прасі», якое ён адразу прыняў на свой рахунак — усё гэта адступіла на задні план.* Б.Стральцоў. *Сказаў [Кім], што ці не завітаў і ў іхнюю хату прагрэс, бо з кухні пахне нечым надта смачным. Яна [жонка], вядома, прыняла гэты прагрэс на свой рахунак — кінуў каменьчык у яе агарод...* Гіль. *[Насця:] Дык вы за гэтай патрэбай [пудзілам] і прыехалі да нас? [Мікола:] Што вы, Настасся Рыгораўна! Барані вас божа прыняць гэта на свой кошт.* Крапіва.

**ПРЫМ`АЦЬ ПАД УВ`АГУ** *што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Улічваць што-н., надаючы значэнне чаму-н. *Прымаючы пад увагу сучаснае становішча драматургіі.., я лічыў патрэбным спыніцца на недахопах.* Крапіва. **ПРЫНЯЦЬ ПАД УВАГУ** *што. Зак. Букрэй прыняў пад увагу меркаванні дзеда Талаша і адобрыў яго праграму на сённяшні дзень.* Колас.

**ПРЫМАЦЬ РУКУ** *каго, чыю.* Гл. браць.

*ПРЫМЕРЫЦЬ* ● **ПРЫМЕРЫЦЬ ШАПКУ МАНАМАХА.** Гл. надзець.

*ПРЫМЕЦЕ* ● **НА ПРЫМ`ЕЦЕ (НА ПРЫКМ`ЕЦЕ)** *у каго. Акал. Разм.* На ўвазе ў каго-н. (быць). *Жыхар заможны і выдатны, ва ўсім прыкладны, акуратны — і ў гаспадарцы, і ў банкеце, — ў паноў быў, нават, на прымеце...* Колас. *У яго [Пальчыка] быў на прыкмеце адзін недалёкі саўгас, куды ён сяды-тады наведваўся і раней...* Дамашэвіч.

*ПРЫМЁРЗ* ● **ЯЗЫК ДА ЗУБОЎ ПРЫМЁРЗ** *у каго.* Гл. язык.

*ПРЫМУСІЦЬ* ● **НЕ ПРЫМ`УСІЦЬ <Д`ОЎГА> СЯБ`Е ЧАК`АЦЬ.** *Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Скора, тут жа прыйсці, выйсці і пад. *Цімох не прымусіў сябе чакаць: як толькі дазваляла ягоная роля багамольца, шмыгнуў ад начальства ён, забыўся нават падзякаваць.* Мурашка. *—Яшчэ двух не хапае, з Прылужжа і Лешнева, — і з трывогай [Пульвіс] глянуў на масіўны кішанёвы гадзіннік... Але і тыя двое з самых аддаленых ад раённага цэнтра вёсак не прымусілі доўга чакаць сябе.* Хадкевіч.

*ПРЫНЕСЛА* ● **БУРА ПРЫНЕСЛА** *каго.* Гл. бура.

**ЛІХА ПРЫНЕСЛА** *каго.* Гл. ліха.

**НЯЛЁГКАЯ ПРЫНЕСЛА** *каго.* Гл. нялёгкая.

**НЯЧЫСТАЯ <СІЛА> ПРЫНЕСЛА** *каго.* Гл. сіла.

**ТРАСЦА ПРЫНЕСЛА** *каго.* Гл. трасца.

**ХАЛЕРА ПРЫНЕСЛА** *каго.* Гл. халера.

**ЯКІМ ВЕТРАМ <ПРЫНЕСЛА>** *каго куды.* Гл. занесла.

*ПРЫНЕСЦІ* ● **ПРЫНЕСЦІ Ў ПАДОЛЕ.** *Зак. да* **ПРЫНОСІЦЬ У ПАДОЛЕ.**

*ПРЫНЁС* ● **БОГ ПРЫНЁС** *каго.* Гл. бог.

**ВЕЦЕР ПРЫНЁС** *каго.* Гл. вецер.

**НЯЧЫСЦІК ПРЫНЁС** *каго.* Гл. нячысцік.

**ЯКІ ЧОРТ ПРЫНЁС** *каго куды.* Гл. чорт.

*ПРЫНОСІЦЬ* ● **ПРЫН`ОСІЦЬ У ПАД`ОЛЕ (ПРЫП`ОЛЕ)**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы жаночага полу. Нараджаць пазашлюбнага дзіцяці. *Старэйшая міліцыянерава дачка нарадзіла байстручку і хацела яе забраць з радзілкі дадому, то бацька так разбушаваўся, устроіў такую вайну... Каб жа то законная ўнучка, а то нажытая невядома ад каго... От яно як, Андрэйка, – гадуй-гадуй сваіх дзяцей, а яны ў падоле прыносяць.* І.Капыловіч. **ПРЫНЕСЦІ Ў ПАДОЛЕ (ПРЫПОЛЕ).** *Зак. Ты беражэш яе, не чапаеш… Але ж яна, можа, яшчэ з якім звядзісветам скруціцца! Прынясе ў прыполе!* Місько. *– Я цябе ўспамінаў… – Так. Я распусніца, у падоле прынесла, школу зганьбіла. – Ніколі так не думай…* Гальпяровіч. *«Ох, і ранняя ж дзеўка ў Навіцкіх, – чуў [Ясь], як ягоная маці казала бацьку. – Аж гарыць усё на ёй. Можа ў любы час прынесці ў прыполе».* Далідовіч. *Як я, твая маці, пагляджу людзям у вочы? Не-е, ты мяне проста рашыла загнаць у магілу. Дзякуй, дачушка. Выгадавала, называецца… Яна мне падаруначак у прыполе прынясе. Во дзякуй! Во дачушка!* Блакіт.

*ПРЫНЦЫПЕ* ● **У ПР`ЫНЦЫПЕ.** *Акал. Функц. не зам.* Збольшага, не ўдаючыся ў падрабязнасці (згаджацца, даказваць і пад.). **Сін**.: у агульных рысах; у асноўным (у 2 знач.); у цэлым (у 2 знач.). *Цяпер жа ад вас нам патрэбны адказ — згодны ці не? Пакуль у прынцыпе.* Чыгрынаў. *[Корзуну] удалося толькі ў прынцыпе даказаць невінаватасць Грамакоўскай.* Шыцік.

*ПРЫНЯСЕ* ● **ШТО СЛІНА НА ЯЗЫК ПРЫНЯСЕ.** Гл. сліна.

*ПРЫНЯЦЬ* ● **ПРЫНЯЦЬ <БЛІЗКА> ДА СЭРЦА** *<што>. Зак. да* **ПРЫМАЦЬ <БЛІЗКА> ДА СЭРЦА** *<што>.*

**ПРЫНЯЦЬ ГРЭХ НА <СВАЮ> ДУШУ.** *Зак. да* **ПРЫМАЦЬ ГРЭХ НА**

**<СВАЮ> ДУШУ.**

**ПРЫНЯЦЬ НА СВОЙ РАХУНАК** *што. Зак. да* **ПРЫМАЦЬ НА СВОЙ РАХУНАК** *што.*

**ПРЫНЯЦЬ ПАД УВАГУ** *што. Зак. да* **ПРЫМАЦЬ ПАД УВАГУ** *што.*

**ПРЫНЯЦЬ РУКУ** *каго, чыю. Зак. да* **ПРЫМАЦЬ РУКУ** *каго, чыю.*

*ПРЫПАРКІ* ● *Дапаможа, патрэбны* **ЯК М`ЁРТВАМУ ПРЫП`АРКІ (-А).** *Акал. Разм. Іран.* Нікольkі не, зусім не (дапаможа, патрэбны каму-н.). **Сін**.: як кашаль хваробе; як мёртваму кадзіла. *[Марфа:] Доктар кажа: дапамагае. [Раман:] Як мёртваму прыпаркі.* Васілеўскі. *Памогуць тыя дошкі як мёртваму прыпарка.* Гроднеў. *Вы яму патрэбны як мёртваму прыпаркі...* Мікуліч.

*ПРЫПАСЦІ* ● **ПРЫП`АСЦІ ДА С`ЭРЦА (К С`ЭРЦУ)** *<каму>. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Вельмі спадабацца каму-н., стаць аб'ектам чыёй-н. глыбокай прыязнасці. *І я з трывогаю спрабую накідваць абразкі з таго часу, калі ўпершыню прыпалі да сэрца радкі Уладзіміра Дубоўкі.* Лужанін. *[Кручкоў:] За што ж ты яго палюбіла? [Марыся:] Сама не ведаю, — вот так штось прыпаў к сэрцу.* Дунін-Марцінкевіч.

*ПРЫПЕРЦІ* ● **ПРЫПЕРЦІ ДА СЦЕНКІ** *каго. Зак. да* **ПРЫПІРАЦЬ ДА СЦЕНКІ** *каго.*

*ПРЫПЁКУ* ● **ЗБОКУ ПРЫПЁКУ.** Гл. збоку.

*ПРЫПІРАЦЬ* ● **ПРЫПІР`АЦЬ (ПРЫЦІСК`АЦЬ) ДА СЦ`ЕНКІ (ДА СЦЯН`Ы)** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Ставіць у бязвыхаднае становішча. **Сін**.: заганяць у кут *каго. [Паўліна:] Што ў вас яшчэ добрае ёсць, апрача чатырох кілаграмаў? [Пытляваны — раззлаваны, што яго прыпіраюць да сцяны:] Усё ў нас ёсць, маладзіца.* Крапіва. **ПРЫПЕРЦІ (ПРЫЦІСНУЦЬ) ДА СЦЕНКІ (ДА СЦЯНЫ)** *каго. Зак. І калі Антось прыпрэ старога да сцяны лагічнымі і канкрэтнымі доказамі і фактамі, дзед хапаецца за апошні доказ...* Машара. *Забеспячэнец.. катэгарычна адмаўляўся ад відавочных фактаў нават тады, калі быў прыціснуты да сценкі.* «ЛіМ».

*ПРЫПОЛЕ* ● **ПРЫНОСІЦЬ У ПРЫПОЛЕ.** Гл. прыносіць.

*ПРЫРОДА* ● **АД (З) ПРЫР`ОДЫ.** *Акал. Функц. не зам.* З нараджэння, па прыродных уласцівасцях, па спадчыне. **Сін**.: ад бога. *У Матыльды жоўты і злосны ад прыроды твар яшчэ пажаўцеў.* Чорны. *Відаць было, што чалавек сапраўды не надта красамоўны. І, магчыма, не ад прыроды такі — навучыла жыццё.* Шамякін. *З прыроды не дадзена.. [Жуку] адчуць у мёдзе смак, таму ён і не хваліць мёду.* Корбан.

**НА ЎЛОННЕ ПРЫРОДЫ.** Гл. улонне.

**НА ЎЛОННІ ПРЫРОДЫ.** Гл. улонні.

*ПРЫСЕСТ* ● **ЗА АДЗ`ІН ПРЫС`ЕСТ.** *Акал. Разм.* Адразу, за адзін прыём і не адрываючыся (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін**.: адным духам (у 2 знач.); адным махам; з аднаго маху; у адзін мах. *[Паэт кібернетычны] выслухаў заўвагі ўсе, сказаў: «Ну, гэта — дробязь». Як трэба, за адзін прысест усё ён пераробіць.* Танк. *Я прачытаў п'есу, як кажуць, за адзін прысест.* Кірэенка. *Пётр Хедаровіч час ад часу перачытваў апошні абзац і быў задаволены, як быў звычайна задаволены, калі ўдавалася за адзін прысест напісаць старонку.* Гігевіч.

*ПРЫСКУ* ● **ЯК ФЕНІКС З ПРЫСКУ.** Гл. фенікс.

*ПРЫСОХ* ● **ЖЫВОТ ДА СПІНЫ ПРЫСОХ** *чый, у каго.* Гл. жывот.

**ЯЗЫК ПРЫСОХ <ДА ЗУБОЎ>** *у каго, каму.* Гл. язык.

*ПРЫСТАВАЦЬ* ● **ПРЫСТАВ`АЦЬ ДА Б`ЕРАГА** *якога. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выбіраць далейшы жыццёвы шлях, далучаючыся да аднаго з двух супрацьлеглых бакоў. **ПРЫСТАЦЬ ДА БЕРАГА** *якога. Зак. —Пачалася рэвалюцыя, прыйшоў дамоў і тут жа я і закруціўся. —Як закруціўся? —Закруціўся, як трэска ў пераваде, і не да таго берага прыстаў.* Колас. *—А вы? Так да гэтага часу і не прысталі ні да якога берага? —Не прыйшлося. Усё шукаю, на якім баку праўда.* Гурскі. *Куды ён схіліўся? Да якога берага прыстаў? Хоць што я пытаюся? Сам я прыстаў да якога-небудзь берага?..* Шамякін.

*ПРЫСТАЎЛЮ* ● **РОЗУМУ НЕ ПРЫСТАЎЛЮ.** Гл. дабяру.

*ПРЫСТАЦЬ* ● **ПРЫСТАЦЬ ДА БЕРАГА** *якога. Зак. да* **ПРЫСТАВАЦЬ ДА БЕРАГА** *якога.*

*ПРЫСЦЯГАЙ* ● **ПРЫШЫЙ-ПРЫСЦЯГАЙ.** Гл. прышый.

*ПРЫТКНУЦЬ* ● **ПРЫТКНУЦЬ СВАЕ ТРЫ ГРОШЫ.** Гл. устаўляць.

*ПРЫТРЫМАЦЬ* ● **ПРЫТРЫМАЦЬ ЯЗЫК.** *Зак. да* **ПРЫТРЫМЛІВАЦЬ ЯЗЫК.**

*ПРЫТРЫМЛІВАЦЬ* ● **ПРЫТР`ЫМЛІВАЦЬ ЯЗ`ЫК.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Менш гаварыць, разважаць, быць асцярожным у выказваннях. **Сін**.: браць рот на замок; і пары з рота не пусціць; трымаць пры сабе *што*; трымаць язык за зубамі; трымаць язык на прывязі; трымаць язык на замку. **ПРЫТРЫМАЦЬ ЯЗЫК.** *Зак.Ты б язык свой прытрымаў – за такія, браце, штукі ў мех садзяць, каб ты знаў!* Колас. *[Лютынскі:] Прашу цябе — прытрымай язык пакуль што, калі нічога не разумееш.* Крапіва.

**ПРЫТРЫМЛІВАЦЬ ЯЗЫК ЗА ЗУБАМІ.** Гл. трымаць.

*ПРЫТУЛІЦЬ* ● **ПРЫТУЛ`ІЦЬ (ПРЫХІЛ`ІЦЬ, ПРЫХІН`УЦЬ) ГАЛАВ`У** *дзе,*

*да каго. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знайсці прыстанішча, жыць, знаходзіцца дзе-н. ці ў каго-н. **Сін**.: прыбівацца да берага *якога. Я не маю дзе галаву прытуліць, за мною, як за воўкам, палююць, дзе б хто не сустрэў мяне...* Чорны. *Яшчэ ішла вайна, і мы, вярнуўшыся ў родны Мінск на руіны і папялішчы, рады былі кутку, дзе можна прытуліць галаву.* Вітка. *Блытаючыся, Вера Паўлаўна расказвала.., як яна сабрала чамаданы і прыехала сюды, бо больш няма куды паехаць, няма да каго прытуліць галавы.* Асіпенка. *Ідзе старасць, а мне і маці не будзе да каго галаву прытуліць. Усё думаем пра вас, маці ўсе вочы выплакала.* Міско. *[Яніна:] Што рукі? Дзе мы галаву прыхінём? Няшчасная я.* Козел. *Куды ж да мора таго ехаць, калі галаву прыхінуць не будзе дзе...* Савіцкі. *Я на яе хату перапішу... Яна ж таксама, небарака, не мае ўласнага кутка, дзе галаву прыхіліць. Жыве на людзях.* Васілевіч.

*ПРЫТУПІЛА* ● **КУПІЛА ПРЫТУПІЛА** *<у каго>*. Гл. купіла.

*ПРЫТЧА* ● **ПР`ЫТЧА ВА ЯЗ`ЫЦАХ.** Часцей у спалучэнні з дзеясл. *быць, стаць* і пад. *Вык. Кніжн. Жарт.-іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Прадмет усеагульных размоў, абгавораў, кпінаў і пад. *Усё Азярное ведае, што Бадытчык — кулак, што яго скора знімаць будуць. Там — гэта прытча ва языцах.* Лобан. *Прытчай ва языцах стала.. дзейнасць (а больш дакладней — бяздзейнасць) будаўнічай брыгады.* «Звязда». *Пакідаю, сын мой, прыход, не хачу, каб маё імя хадзіла прытчай ва языцах.* Марчук.

*ПРЫЎЗНІМАЦЬ* ● **ПРЫЎЗНІМ`АЦЬ (ПРЫАДКРЫВ`АЦЬ) ЗАСЛ`ОНУ** *над чым. Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Пачынаць рабіць вядомым што-н. тайнае, скрытнае. *Ветлівы выклік з Камітэта дзяржаўнай бяспекі — сустрэцца, пагаварыць — прыўзнімае заслону над забытым. Не, вайна для Ніны Ягораўны не скончылася.* «ЛіМ». *Як узнікаюць і распаўсюджваюцца эпідэміі, пандэміі грыпу?.. Адкрыццё, зробленае савецкімі вучонымі, прыадкрывае заслону над гэтай тайнай.* «Звязда». **ПРЫЎЗНЯЦЬ (ПРЫАДКРЫЦЬ) ЗАСЛОНУ** *над чым. Зак.*

*ПРЫЎЗНЯЦЬ* ● **ПРЫЎЗНЯЦЬ ЗАСЛОНУ** *над чым. Зак.* да **ПРЫЎЗНІМАЦЬ ЗАСЛОНУ** *над чым.*

*ПРЫХІЛІЦЬ* ● **ПРЫХІЛІЦЬ ГАЛАВУ** *дзе, да каго.* Гл. прытуліць.

*ПРЫХІНУЦЬ* ● **ПРЫХІНУЦЬ ГАЛАВУ** *дзе, да каго.* Гл. прытуліць.

*ПРЫХОД* ● **ПРЫХ`ОД НА СВ`ЕТ** *каго, чый. Мн. не ўжыв. Дзейн. і дап. Функц. не зам.* Нараджэнне каго-н. **Сін.**: з'яўленне на свет. *Бацька, расказвалі ў вёсцы, вельмі рады быў майму прыходу на свет і*

*трывожыўся, помнячы лёс папярэдніх дзяцей.* Калеснік. *Мой прыход на свет адбыўся пад задыякальным знакам Дзевы ў найстаражытнейшым горадзе Полацку*. Арлоў.

*ПРЫХОДЗІЦЦА* ● **РАЗ НА РАЗ НЕ ПРЫХОДЗІЦЦА.** Гл. раз.

*ПРЫХОДЗІЦЬ* ● **ПРЫХ`ОДЗІЦЬ ДА Р`ОЗУМУ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Набываць магчымасць цвяроза разважаць, разумнець. **Сін**.: даходзіць да розуму. **ПРЫЙСЦІ ДА РОЗУМУ.** *Зак. [Ліза:] Я спадзявалася... што ён прыйдзе да розуму. Не дурны ж чалавек... Ён ужо паўгода не жыве дома.* Шамякін. *[Соня:] А тата? [Лукша:] Хай.. паброхае ў гэтай ціне. А потым прыйдзе да розуму, вызваліць рукі і прыплыве да нашага берага.* Макаёнак.

**ПРЫХ`ОДЗІЦЬ ДА СЯБ`Е.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Пераставаць адчуваць стомленасць. **ПРЫЙСЦІ ДА СЯБЕ.** *Зак. Вядома, сёння ён здарожыўся, і нават нашы пекныя літвінкі не могуць яго развесяліць. Але заўтра, спадзяюся, ён прыйдзе да сябе і па-сапраўднаму ацэніць прыгажосць Літвы.* Мальдзіс.

**2**. Перастаць хваляваца; супакойвацца. **Сін**.: прыходзіць у сябе (у 2 знач.). **ПРЫЙСЦІ ДА СЯБЕ.** *Зак. Два дні не мог прыйсці да сябе Андрэй. Каб забыцца, моцна ўвайшоў ён у работу...* Чорны. *Ясь доўга не можа прыйсці да сябе — доўга, доўга...* Лойка.

**ПРЫХ`ОДЗІЦЬ НА СВ`ЕТ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нараджацца, пачынаць жыць. **Сін**.: з'яўляцца на свет; пайсці на свет. **ПРЫЙСЦІ НА СВЕТ.** *Зак. Адным словам, думаў Васіль, абмылкаю нейкаю прыйшоў на свет гэты чалавек і заміж астрога або вар'яцкага дома папаў у ляснічыя.* Колас. *Дзіця прыйшло на свет нежывое...* Гарэцкі.

**ПРЫХ`ОДЗІЦЬ НА (У) Д`УМКУ** *каму. Незак. Разм.* **1**. *Часцей у безас. ужыв.* Раптоўна, выпадкова з'яўляцца ў свядомасці. Пра ідэю, меркаванне і пад. **Сін**.: лезці ў галаву *каму*; прыходзіць у галаву *каму* (у 1 знач.); стрэліць у галаву *каму*; стукнуць у галаву *каму* (у 1 знач.); узбрысці на розум *каму*; узбрысці ў галаву *каму* (у 1 знач.); усплываць на памяць *каму, у каго*; усплываць у памяці *каго, чыёй*; цюкнуць у галаву *каму.* **ПРЫЙСЦІ НА (У) ДУМКУ** *каму. Зак. Нарэшце [Алесь] адважыўся пачаць гаворку з першага, што прыйшло на думку...* Броўка.

**2**. *Часцей у безас. ужыв.* Даходзіць да свядомасці каго-н. **Сін**.: прыходзіць у галаву *каму* (у 2 знач.). *Ён [старшыня] хоча працаваць на ўсім гатовым. Яму і ў думку не прыходзіць, што можна мабілізаваць унутраныя рэсурсы.* Крапіва. **ПРЫЙСЦІ НА (У) ДУМКУ** *каму. Зак. Віктар аж засаромеўся: яму ў гэты момант зусім не*

*прыйшла на думку простая рэч, што камень можна пабіць.* Маўр. *Увага да яго [Алёшы] пабольшала, калі ўсім прыйшло на думку, што Касцянок, напэўна, і сёння, як заўсёды, снедаў за адным сталом з дырэктарам.* Шамякін.

**3.** У *безас. ужыв. Часцей ужыв. у спалучэнні з інф.* Адчуваць патрэбнасць у чым-н.; хацець, наважвацца. **Сін**.: прыходзіць у галаву *каму* (у 3 знач.); стукнуць у галаву *каму* (у 2 знач.); узбрысці ў галаву *каму* (у 2 знач.). **ПРЫЙСЦІ НА (У) ДУМКУ** *каму. Зак. З нары вылазіла двое барсучанят, якія здурнелі ад дыму. Яны былі такія мільыя, пацешныя, што хлопцам і ў думку не прыйшло іх забіваць. Іх забралі жывымі.* Маўр.

**ПРЫХ`ОДЗІЦЬ НА ЯЗ`ЫК** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. **1.** Міжвольна вымаўляцца кім-н. **Сін**.: зрывацца з вуснаў *чыіх, каго*; зрывацца з языка *чыйго, у каго*; лезці на язык *каму*; не сходзіць з вуснаў *чыіх, каго*; не сходзіць з языка *чыйго, у каго*; узбрысці на язык *каму.* **ПРЫЙСЦІ НА ЯЗЫК** *каму. Зак. «Не лаві, татка, рыбы з такімі вачыма! Яна нядобрая. Яна ліхая, злосная». Ці мала што дзіцяці прыйдзе на язык!* Янкоўскі.

**2.** Прыпамінацца пры выказванні. **ПРЫЙСЦІ НА ЯЗЫК** *каму. Зак. [Клімёнак] хацеў засмяяцца, адказаць якім-небудзь жартам, але нічога не прыйшло на язык, а замест ўсмешкі на вуснах у яго была сухая вымучаная грымаса.* Дамашэвіч.

**ПРЫХ`ОДЗІЦЬ У ГАЛАВ`У** *каму. Незак. Разм.* **1**. *Часцей у безас. ужыв.* Раптоўна, выпадкова з'яўляцца ў свядомасці. Пра думку, ідэю і пад. **Сін**.: лезці ў галаву *каму*; прыходзіць на думку *каму* (у 1 знач.); стрэліць у галаву *каму*; стукнуць у галаву *каму* (у 1 знач.); узбрысці на розум *каму*; узбрысці ў галаву *каму (у* 1 знач.); усплываць на памяць *каму, у каго*; усплываць у памяці *каго, чыёй*; цюкнуць у галаву *каму. [Лютынскі:] Скажы ты мне па шчырасці: табе не прыходзіла ў галаву такая думка: а што калі мы не тое робім, што трэба?* Крапіва. *Вера.. заўсёды гаварыла, што думае. Ды і ўсе тутэйшыя з дзіцячай непасрэднасцю выказвалі ўсё, што прыходзіла ў галаву.* Грахоўскі. **ПРЫЙСЦІ Ў ГАЛАВУ** *каму. Зак. Шафёр зірнуў насцярожана: што сакратару прыйшло ў галаву?* Шамякін.

**2**. *Часцей у безас. ужыв.* Даходзіць да свядомасці каго-н. **Сін.:** прыходзіць на думку *каму* (у 2 знач.). *З першага позірку Ніне падалося, што яна бачыла гэтага чалавека. А дзе і калі — не прыходзіла адразу ў галаву.* Лобан. *Мне і ў галаву не прыходзіла, каб бацька найшоў на маю бяду і ўбачыў усё сваімі вачыма.* Пальчэўскі. **ПРЫЙСЦІ Ў ГАЛАВУ** *каму. Зак. Усё было добра, усё было прыемна на вячэры, але нікому не прыйшло ў галаву спытацца — адкуль у*

*Кастуся Вераб’я з’явілася на стале цяляціна?* Пестрак.

**3**. *У безас. ужыв. Часцей ужыв. у спалучэнні з інф.* Адчуваць патрэбу ў чым-н.; хацець, наважвацца. **Сін**.: прыходзіць на думку *каму* (у 3 знач.); стукнуць у галаву *каму* (у 2 знач.); узбрысці ў галаву *каму* (у 2 знач.). *Амаль што не каля кожнай хаты ляжалі кучы бярвення і гнілі, але нікому не прыходзіла ў галаву палажыць кладачку хоць супраць свае хаты, каб льга было прайсці праз балота, у якім тапілася гэта вуліца.* Колас. **ПРЫЙСЦІ Ў ГАЛАВУ** *каму. Зак. Каб, скажам, хто-небудзь з дзяцей, з якімі Серж разам вучыцца, што-небудзь нёс цяжкае і абнямог ад цяжару, Сержу і ў галаву не прыйшло б памагчы гэтаму свайму таварышу.* Чорны. *Гэта было нібы знарок прыдумана, каб нікому ў галаву не прыйшло брацца падрабляць такі тонкі складаны малюнак.* Дамашэвіч.

**ПРЫХ`ОДЗІЦЬ У СЯБ`Е.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Выходзіць са стану непрытомнасці, забыцця і пад. **Сін**.: даходзіць да памяці (у 1 знач.). *Манька трацiла прытомнасць, зноў прыходзіла ў сябе, зноў правальвалася ў небыццё.* «ЛіМ». **ПРЫЙСЦІ Ў СЯБЕ.** *Зак. Стары знайшоў вачыма пад яблыняй услон, апусціўся на яго, прыгрэўся на сонцы і задрамаў ад слабасці... І хутка прахапіўся, не адразу прыйшоў у сябе, доўга расціраў твар сухімі далонямі.* М.Капыловіч.

**2**. Пераставаць хвалявацца; супакойвацца. **Сін**.: прыходзіць да сябе (у 2 знач.). **ПРЫЙСЦІ Ў СЯБЕ.** *Зак. Даведалася, што з табою здарылася бяда, і, паверыш, тры дні не магла прыйсці ў сябе, супакоіцца.* Гартны. *Ну, і здзівілі вы ўчора мяне, Аляксандр Максімавіч. Сёння яшчэ не магу ў сябе прыйсці...* Шынклер. *Не паверыце, Ніначка, не магу прыйсці ў сябе з таго часу, як гэта здарылася.* Лобан.

*ПРЫЦІСКАЦЬ* ● **ПРЫЦІСКАЦЬ ДА СЦЕНКІ** *каго.* Гл. прыпіраць.

**ПРЫЦІСК`АЦЬ (ПРЫШЧАМЛ`ЯЦЬ) ХВ`ОСТ (ХВАСТ`Ы)** *каму. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Прымушаць каго-н. падпарадкоўвацца; ствараць цяжкае, бязвыхаднае становішча. **ПРЫЦІСНУЦЬ (ПРЫШЧАМІЦЬ) ХВОСТ (ХВАСТЫ)** *каму. Зак. А там калгасны кладаўшчык пракраўся, — салдат прыціснуў хвост кладаўшчыку, з раёна запрасіўшы рэвізора.* Корбан. *[Моцкін:] І тут вы ім пакажыце! Пакажыце, што выкрылі іх махінацыі, прышчаміце хвасты і... будзьце ўпэўнены...* Макаёнак. *Гэты Воўк гарачы, як неаб’езджаны конь... Але мы яму хвост прышчэмім.* Дамашэвіч.

*ПРЫЦІСНУЦЬ* ● **ПРЫЦІСНУЦЬ ДА СЦЕНКІ** *каго. Зак. да* **ПРЫЦІСКАЦЬ**

**ДА СЦЕНКІ** *каго.*

**ПРЫЦІСНУЦЬ ХВОСТ** *каму. Зак. да* **ПРЫЦІСКАЦЬ ХВОСТ** *каму.*

*ПРЫЦЭЛ* ● **БРАЦЬ НА ПРЫЦЭЛ** *каго,* што. Гл. браць.

**ДАЛ`ЁКІ ПРЫЦ`ЭЛ.** У *ролі розных чл ск. Функц. не зам. Часцей неадабр.* Хітры разлік, прыхаваныя задумы, планы, намеры. **Сін**.: задняя думка. *Люцко рашыўся прызнацца, што на пятай свідравіне атрымана нафта. Быў у гэтым далёкі прыцэл. Люцко хацеў перакласці частку адказнасці на Парэмскага.* Асіпенка. *Грамабой жа згадзіўся ісці дэлегатам у саўгас без усякай палітыкі далёкага прыцэлу, а проста таму, што пагнаўся на двух дарэмных работнікаў, якія яму будуць сечку рэзаць.* Крапіва. *Выходзіць, сапраўды, як той Валька казаў, «паказуха», жаніцьба з далёкім прыцэлам і па такой буйной мішэні, як кватэра.* Грахоўскі.

*ПРЫЦЯГВАЦЬ* ● **ПРЫЦ`ЯГВАЦЬ ЗА В`УШЫ (ЗА ВАЛАС`Ы)** *што. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Неапраўдана, беспадстаўна выкарыстоўваць што-н. у якасці доказаў. *Я ўсе для байкі персанажы як след абмераю, узважу: каго пад нож, каго абмажу. Хоць іншы раз (прызнацца мушу) мараль прыцягваю за вушы.* Скрыпка. *Дзе факты не хочуць служыць лявацкай тэндэнцыі І.Мацвеенкі, там ён без усякага сораму прыцягвае іх за валасы.* Крапіва. **ПРЫЦЯГНУЦЬ ЗА ВУШЫ (ЗА ВАЛАСЫ)** *што. Зак. Успаміналася, што ў некаторых з іх абвінавачванні, і вельмі сур'ёзныя, былі прыцягнуты, проста сказаць, за вушы.* Мележ. *Прыкладна такімі ж прыцягнутымі за вушы былі і абвінавачванні ў сувязі з агентам паліцыі.* Быкаў.

*ПРЫЦЯГНУЦЬ* ● **ПРЫЦЯГНУЦЬ ЗА ВУШЫ** *што. Зак. да* **ПРЫЦЯГВАЦЬ ЗА ВУШЫ** *што.*

*ПРЫШЧАМІЦЬ* ● **ПРЫШЧАМІЦЬ ХВОСТ** *каму. Зак. да* **ПРЫШЧАМЛЯЦЬ ХВОСТ** *каму.*

**ПРЫШЧАМ`ІЦЬ ЯЗ`ЫК.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Перастаць гаварыць, замоўкнуць. **Сін**.: наступаць сабе на язык; павесіць <сабе> замок на рот; праглынуць язык; прыкусваць язык. *—Я і сама як-небудзь упраўлюся. І так гавораць, што я ў цябе другая жонка. —Хто гаворыць? —Барабаніха, хто ж яшчэ? —От як сперажу па плячах, то ўраз прышчэміць язык.* Гардзей.

*ПРЫШЧАМЛЯЦЬ* ● **ПРЫШЧАМЛЯЦЬ ХВОСТ** *каму.* Гл. прыціскаць.

*ПРЫШЫБЕЕЎ* ● **УНТЭР ПРЫШЫБЕЕЎ.** Гл. унтэр.

*ПРЫШЫВАЦЬ* ● **ПРЫШЫВ`АЦЬ ЯРЛ`ЫК (-`І)** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Аднабакова, шаблонна

ацэньваць, характарызаваць каго-н. **Сін**.: вешаць ярлык *<каму, на каго, на што>*; прыклейваць ярлык *<каму, на каго, на што>*. *[Лютынскі:] Замест таго, каб прышываць людзям ярлыкі, вы б лепш вывучылі гэта пытанне.* Крапіва. **ПРЫШЫЦЬ ЯРЛЫК (-І)** *каму. Зак. Ты ўжо нябось, мне і ярлык прышыў, лятун ці што-небудзь у гэтым родзе. Дык міма цэлі твае кулі ляцяць.* Кандрусевіч.

*ПРЫШЫВАННЕ* ● **ПРЫШЫВ`АННЕ ЯРЛЫК`ОЎ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Аднабаковая, шаблонная ацэнка, характарыстыка каго-н. **Сін.**: навешванне ярлыкоў. *Настаў час, калі палітыка бесцырымоннага прышывання ярлыкоў пачала цярпець няўдачы.* Чавускі.

*ПРЫШЫЙ* ● **ПРЫШ`ЫЙ КАБ`ЫЛЕ ХВ`ОСТ.** *Толькі ў гэтай форме. Праст. Груб. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зусім непатрэбны, лішні, не мае дачынення да чаго-н. **Сін**.: збоку прыпёку (у 2 знач.); прышый-прысцягай. *Я ж ужо і гаспадар дома так сабе, як той казаў, прышый кабыле хвост.* Чорны. *Я нічога не маю да вашай паўвалокі і да вашых сваякоў-арандатараў. Што мне да ўсяго гэтага! Я тут, як той казаў, прышый кабыле хвост.* Чарнышэвіч. *Хацеў [Андрэй] учора, вярнуўшыся з канторы, сам паехаць пад Полацк. Унук тут, відаць, прышый кабыле хвост.* Пташнікаў. *[Максім:] Ці я ўжо табе проста — прышый кабыле хвост?* Макаёнак.

**ПРЫШ`ЫЙ-ПРЫСЦЯГ`АЙ.** *Толькі ў гэтай форме. Праст. Неадабр. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.* Зусім непатрэбны, лішні, не мае дачынення да чаго-н. **Сін.**: збоку прыпёку (у 2 знач.); прышый кабыле хвост. *Усе былі клапатліва заняты сваёй справай. Толькі яна [Маня] адна, быццам прышый-прысцягай, блыталася на белым свеце.* Карпюк. – *Вочы?.. Ліха іх знае, якія ў яе там вочы. – Эх ты, прышый-прысцягай! Вачэй не разгледзіць. А яны, між іншым, – люстэрка душы.* Кузьмянкоў.

*ПРЫШЫЦЬ* ● **ПРЫШЫЦЬ ЯРЛЫК** *каму. Зак. да* **ПРЫШЫВАЦЬ ЯРЛЫК** *каму.*

*ПРЫШЭСЦЯ* ● **ДА ДРУГ`ОГА ПРЫШ`ЭСЦЯ**. *Акал. Разм.* Неакрэслена доўга. *Не так ужо багата асталося часу, палажаць у магілку, ляжы сабе, да другога прышэсця…* Пальчэўскі. *А то пусці адзін раз цуд у хату – да другога прышэсця не выправадзіш яго, ні праз дзверы, ні праз акно. Няма дурных!* Кудласевіч. *Кастусь сярдзіта пазіраў на Магду. – Мне што, бегаць за вамі да другога прышэсця?* Рублеўская.

*ПРЭ* ● **З Г`ОРЛА ПР`Э (П`ЁРЛА)** *у каго. У безас. ужыв. Праст. Пагард.* Празмерна многа чаго-н. у каго-н. **Сін**.: адбою няма *ад каго (у 1* знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у

2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго*, *чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. —А чаму ж гэта мне нічога не назначана? — У цябе ж сваё з горла прэ, — крыкнуў нехта з натоўпу.* Сабаленка. *Усё ліха ідзе ад таго, што адзін — багаты, другі — бедны, у аднаго ўжо з горла прэ, а другі канае з голаду.* Левановіч.

*ПРЭТЭНЗІІ* ● **У ПРЭТ`ЭНЗІІ** *на каго. У знач. вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Не задаволены кім-н., у крыўдзе на каго-н. *Камісія? Камісія не будзе ў прэтэнзіі...* Мележ. *[Люба:] А што, з ім няможна прайсціся?.. Сакратар ячэйкі... Усе нават зайздросцяць, а вы ў прэтэнзіі нібы...* Кобец.

*ПРЭЧ* ● **Р`УКІ ПР`ЭЧ** *ад каго, ад чаго. Выкл. Функц. не зам.* Патрабаванне не ўмешвацца ў чые-н. справы. *Не вы дасце народам свята, не вам пажар вайны заліць! Дык рукі прэч, забойцы, каты! Не вам аб згодзе гаварыць!* Колас. «*Рукі прэч ад Нікарагуа «Не дапусцім новага В'етнама» — пад такімі лозунгамі адбылася дэманстрацыя пратэсту супраць інтэрвенцыянісцкага курсу адміністрацыі ЗША ў Цэнтральнай Амерыцы.* «Звязда».

*ПСАВАННЕ* ● **ПСАВ`АННЕ КРЫВ`І.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Непрыемнасці, моцнае раздражненне. *Мыслі аб выездзе з Ташкента палохаюць... Будзе многа клопатаў і псаванне крыві.* Колас.

**ПСАВ`АННЕ Н`ЕРВАЎ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск.* Моцнае хваляванне, нерваванне. *Так заўсёды і жыла тут сумная затуканасць і крыклівая пустата, а за імі следам ішло трохі*

*схаванае, але няўхільнае псаванне нерваў*. Гарэцкі.

*ПСАВАЦЬ* ● **ПСАВ`АЦЬ АБ`ЕДНЮ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знарок перашкаджаць каму-н. у ажыццяўленні чаго-н. **Сін**.: даваць падножку *каму*; заступаць дарогу *каму*; падстаўляць ножку *каму*; перабягаць дарогу *каму*; ставіць падножку *каму*; ставіць палкі ў кола *каму, чаго*; станавіцца на дарозе *чыёй, каму, чаму*; станавіцца папярок дарогі *каму, чыёй,* стаяць на дарозе *чыёй, у каго*; стаяць папярок дарогі *каму, каго.* **Ант**.: саступаць з дарогі (у 2 знач.); сыходзіць з дарогі. *—Вось ты мне заўсёды псуеш абедню! — напусціўся на Тадорыка Садовіч.* Колас.

**ПСАВ`АЦЬ КР`ОЎ** *каму*; *многа, нямала, колькі* і пад. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Рабіць непрыемнасці каму-н., моцна раздражняць каго-н. **Сін**.: выводзіць з сябе *каго*; дзейнічаць на нервы *каму*; дражніць гусей; іграць на нервах *чыіх, каму. Баламутны сын многа папсаваў крыві Паўлу і працягвае псаваць*. Навуменка.

**ПСАВ`АЦЬ КР`ОЎ САБ`Е.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі раздражняцца з-за чаго-н., злавацца. *Яшчэ не хапала каб я псаваў кроў сабе праз гэтых лайдакоў...* Лынькоў. *Штодня штурмуе [чалавек] медыцыну, да слёз даводзіць дактароў і без усякае прычыны псуе сабе і людзям кроў.* Грахоўскі.

**ПСАВ`АЦЬ ПАВ`ЕТРА.** *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Смуродзіць. *Ці падстаўляў ты калі, хоць раз, свой барані лоб пад кулю?.. Сядзіш сабе, паветра псуеш ды лезеш яшчэ з суконным рылам куды не след!* Колас. *[Асёл] жуе сабе авёс, псуе сабе паветра. Пры гэтым бедныя жывёлы і чхнуць баяцца без дазволу.* Крапіва. **ПАПСАВАЦЬ ПАВЕТРА.** *Зак. Даходзіць да камічнага, як тое было нядаўна: «Ларыса Міхайлаўна, а Дзіма Бабкін папсаваў паветра» – і скаржніца запытальна глядзіць на мяне ў чаканні прысуду, а чырвоны, бы вараны рак, «злачынца» пад хіхіканне аднакласнікаў засяроджана разглядае ўласныя пазногці.* Кадзетава.

**ПСАВ`АЦЬ (ТРАП`АЦЬ) Н`ЕРВЫ** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Моцна хваляваць, прымушаць нервавацца каго-н. **Сін**.: рваць нервы (у 2 знач.). *У Бусла не было сваіх дзяцей, і ён не мог дапускаць, каб чужыя дзеці псавалі яму нервы.* Ермаловіч. *[Калібераў:] Закурыць у доме — цэлая праблема. Пра апетыт клапоціцца, а нервы трэпле... Запалкі схавае, шэльма...* Макаёнак.

*ПТАХ* ● **В`ОЛЬНЫ ПТ`АХ.** *Адз. і мн. Часцей у знач. вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Свабодны, ні ад каго незалежны чалавек.

Пра мужчыну. **Сін**.: вольная птушка; вольны казак. *Ты адзін, Пабла. Малады, дужы, Вольны птах. А ў мяне сям'я.* Левановіч. *Сябры ўзялі Арсена на рукі і выйшлі на вуліцу: «Глядзі, дарагі таварыш, мы ўжо вольныя птахі!..»* Бажко.

**ПЕРАЛ`ЁТНЫ ПТ`АХ.** *Адз. і мн. Часцей вык. Разм. Неадабр.* Той, хто часта мяняе работу, месца прыстанку. **Сін**.: перакаці-поле. *Камісар Міхайловіч глядзеў на кожнага так уважліва і падоўгу, нібы ў галаве сядзела пытанне-цвік: што гэта за пералётныя птахі?* Місько. *Засталіся ў сталярцы адны навічкі, так сказаць, нядаўнія параднёнцы, аднаго поля ягады — тыя самыя лёгкія на пад'ём пералётныя птахі, якім захацелася пабачыць свет.* Масарэнка. *—Ты тады сказала, што ён рамантык. І я так лічыў. А на самай справе... ніякі ён не рамантык. —А хто ж?.. —Так... Пералётны птах.* Ярашэвіч.

*ПТАХА* ● **В`ОЛЬНАЯ ПТ`АХА.** *Адз. і мн. Часцей у знач. вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Свабодны, ні ад каго незалежны чалавек. Пра жанчыну. **Сін**.: вольная птушка; вольны казак. *[Ганна] запярэчыла сабе: няма перад кім ёй вінавацціца! Няма! Вольная птаха!* Мележ. *[Лушка — дачцэ:] Не слухай яго, праклятага, трымайся Мішы! З ім ты свет убачыш, вольнай птахай пажывеш.* Макаёнак.

*ПТАШКА* ● **РАННЯЯ ПТАШКА.** Гл. птушка.

*ПТУШАНЯ* ● **ЖАЎТАР`ОТАЕ ПТУШАН`Я.** *Мн. не ўжыв. Часцей у знач. зваротка. Разм. Неадабр.* Вельмі малады, нявопытны, наіўны чалавек. **Ант**.: біты воўк; стары верабей; стары воўк; стрэляная птушка; стрэляны верабей; стрэляны воўк. *—Нічога вы не ведаеце, жаўтаротае птушаня, —Станкевіч сумысле скіраваў размову на жарт.* Гурскі. *—Эх ты, а яшчэ сябар... — Вось і сябар, птушаня жаўтаротае.* Асіпенка.

*ПТУШКА* ● **В`АЖНАЯ ПТ`УШКА.** *Адз. і мн. Часцей у знач. вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Чалавек з высокім становішчам, званнем, пасадай. **Сін**.: птушка высокага палёту. **Ант**.: абсевак у полі; адстаўной казы барабаншчык; апошняя спіца ў коле; дзесятая спіца ў коле (у 1 знач.); малая сошка; птушка невысокага палёту. *[Немец] аказаўся лётчыкам, эсэсаўцам. Тры жалезныя крыжы меў з дубовым лісцем. Важная птушка.* Лынькоў. *—А-а-а, папаўся, бандзюга! —Гэта, па ўсім відаць, важная птушка.* Асіпенка. *Мільгнула думка: узяць фашыстаў жывымі. Гэта, мабыць, важныя нейкія птушкі.* Сабаленка.

**В`ОЛЬНАЯ ПТ`УШКА.** *Адз. і мн. Часцей у знач. вык. Функц. не зам.*

Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Свабодны, ні ад каго незалежны чалавек. Пра мужчыну ці жанчыну. **Сін**.: вольная птаха; вольны казак; вольны птах. *Шмерлінга я ўжо кінуў. Занудлівы вельмі. Над кожнай капейкай калоціцца. Я цяпер вольная птушка.* Дайнека. *Вера Паўлаўна адчувала сябе самай шчаслівай жанчынай на свеце і ў той жа час добра памятала, што яна не вольная птушка...* «ЛіМ». *Мае паехалі, Карл і Навум былі ўвогуле вольныя птушкі.* Караткевіч.

**ЗАЛ`ЁТНАЯ ПТ`УШКА.** *Адз. і мн. Часцей у знач. вык. Разм. Часцей іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Чужы, нетутэйшы чалавек. *Залётнай птушкай была яна [Нінка ў світэры замежнага вырабу] сярод апранутых у выпацканыя ватоўкі баб.* Супрунчук. *Для пачатку неабходна высветліць: мясцовыя гэта людзі або залётныя пішушкі.* «Звязда».

**ПТ`УШКА ВЫС`ОКАГА ПАЛ`ЁТУ.** *Адз. і мн. Часцей у знач. вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Чалавек, які займае высокае становішча ў грамадстве. **Сін**.: важная птушка. **Ант**.: абсевак у полі; адстаўной казы барабаншчык; апошняя спіца ў коле; дзесятая спіца ў коле (у 1 знач.); малая сошка; птушка невысокага палёту (у 1 знач.). *Яго лічылі птушкай высокага палёту. А выявілася, што ён звычайны стрэляны верабей.* «ЛіМ». *Птушка высокага палёту кепска чуе крытыку знізу.* «Вожык».

**ПТ`УШКА НЕВЫС`ОКАГА ПАЛ`ЁТУ.** *Адз. і мн. Часцей у знач. вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Нязначны, малаважны, неўплывовы чалавек. **Сін**.: абсевак у полі; адстаўной казы барабаншчык; апошняя спіца ў коле; дзесятая спіца ў коле (у 1 знач.); малая сошка. **Ант**.: важная птушка; птушка высокага палёту.

**2**. *Неадабр.* Нікчэмны чалавек. *Бондар грэбліва ставіцца да такіх, каму ўлада туманіць розум. Найлепшая праверка — разумны чалавек ці не — зрабіць яго начальнікам. Калі задзярэ нос — птушка невысокага палёту.* Навуменка.

**Р`АННЯЯ ПТ`УШКА (ПТ`АШКА).** *Адз. і мн. Вык. ці зваротак. Разм. Адабр.* Дбайны, руплівы чалавек, які рана ўстае ці раней за іншых прыходзіць куды-н. *[Цёця Каця:] Дзень добры, Вера Міхайлаўна! Вось ранняя птушка! Заўсёды першая!* Крапіва. *—А вы, я бачу, ранняя птушка, — сказаў Фёдар Сцяпанавіч, ідучы ёй насустрач.* Асіпенка. *—Здарова, раннія птушкі! — здалёк яшчэ крыкнуў Лазавы.* Васілевіч. *О, Тодар, як той казаў, пташка ранняя — здароў!.. Усё рупішся, клапочаш, і старасці для цябе нямашака?* Вышынскі.

**С`ІНЯЯ ПТ`УШКА.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Сімвал шчасця; тое, што ўвасабляе для каго-н. найвышэйшае шчасце.

*Няхай кожны ў меру сваіх сіл і здольнасцей сумленна робіць сваю справу, абрабляе свой агарод, не надта дбаючы пра сінюю птушку славы.* Быкаў. *Рупныя, увішныя дзяўчаты. З'ехалі б адсюль [з вёскі], хто ведае, ці знайшлі б тую «сінюю птушку».* «Звязда». *Не згодзен з вамі, што выхад настаўніка на пенсію не трагедыя. Трагедыя! Ды і якая!.. Настаўніцкая работа была маёй сіняй птушкай.* Ермаловіч. *Не блукай па няродных прасторах, птушку сінюю там не шукай, зразумей, нават змучаны горам, што яна — гэта родны наш край.* «ЛіМ».

**СТР`ЭЛЯНАЯ ПТ`УШКА.** *Часцей ужыв. у адз. Разм. Часцей у знач. вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі вопытны, спрактыкаваны чалавек. **Сін**.: біты воўк; стары верабей; стары воўк; стрэляны верабей; стрэляны воўк. **Ант**.: жаўтаротае птушаня. *[Паліцмайстар:] Трымай яе! Арыштаваць! Мабыць, птушка стрэляная.* Міровіч. *Ты думаеш, дарэмна за табою палюе Настасся. Яна не такая наіўная, як ты мяркуеш. Гэта, браце, стрэляная птушка.* Гурскі. *—А ты, відаць, стрэляная птушка, — перапыніў яго, адрываючыся ад блакнота, Мятла.* Машара. *Апанас Мядзведзька нездарма быў стрэлянай птушкай, ён ведаў, з якога боку падысці.* Навуменка.

*ПТУШКУ* ● <u>*Відаць, бачыць*</u> **ПТ`УШКУ ПА ПАЛ`ЁЦЕ.** *Кампанент безас. вык. Разм. Часта неадабр.* (Відаць) па знешнасці, паводзінах, справах, што за чалавек. **Сін**.: *відаць* пана па халявах. *Чаму вы яму [Жану] не давяраеце? Відаць птушку па палёце...* Новікаў. *Цяпер ясна, чаму цябе, стары, суседзі не любяць. Птушку відаць па палёце...* Сіняўскі. *Падабаешся ты мне, хлопец... Не, не кажы, я адразу бачу птушку па палёце.* Раманаў.

*ПТУШЫНАГА* ● **З ВЫШЫНІ ПТУШЫНАГА ПАЛЁТУ.** Гл. вышыні.

**ТОЛЬКІ ПТУШЫНАГА МАЛАКА НЯМА** *ў каго, дзе.* Гл. няма.

*ПТУШЫНАЕ* ● **ПТУШЫНАЕ МАЛАКО.** Гл. малако.

*ПТУШЫНЫХ* ● **НА ПТУШЫНЫХ ПРАВАХ.** Гл. правах.

*ПУГА* ● <u>*Распусціцца*</u> **ЯК СТАР`ЭЧАЯ (СТАР`ЭЦКАЯ) П`УГА.** *Акал. Разм. Неадабр.* Вельмі, празмерна, да немагчымасці. *Параспускаліся, гадаўё, як старэцкія пугі* Колас. *[Настася:] Унук твой, Міхалючок гэты. Ты яго распусціў як старэчую пугу.* Чорны.

*ПУГАЙ* ● **ЯК П`УГАЙ ПА ВАДЗ`Е** *каму. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. **1**. *Неадабр.* Нічога не дзейнічае на каго-н. **Сін**.: як гарох аб сцяну *каму, для каго. —Дарэмна траціш сілу, — махнуў рукой сусед, — я ім тут, можа, сто разоў гэта гаварыў. Як*

*пугай па вадзе.* Шыцік. *Твая во гэта навука ім як пугаю па вадзе.* Янкоўскі. *Працуеш, працуеш, гаворыш, вучыш, а ім [хлопчыкам] як пугай па вадзе.* Левановіч.

**2**. Пусцяковіна, дробязь для каго-н. ці для чаго-н., не мае ніякага значэння для каго-, чаго-н. *Яшчэ нейкі каморнік з'явіўся, яшчэ і яму плаці. Тут гэта назнарок падстроена багатырамі, — калі ён дасць колькі рублёў, дык гэта яму як пугаю па вадзе.* Чорны. *Знак той казне, як пугаю па вадзе, ці заплаціць Сомік за карову, ці не? А яму ўсё ж бы рублёў колькі ў кішэні засталося...* Крапіва.

*ПУГУ* ● Піць, распіцца **НА САБ`АЧУЮ П`УГУ.** *Акал. Разм. Неадабр.* Зусім, да немагчымасці. *Мой муж, нябожчык, як рабіў на шахце, трымаўся... А як на пенсію выйшаў, дык і распіўся на сабачую пугу.* Левановіч. *Свякруха часта лае яго, ушчувае: «Распіўся ты, сынок, на сабачую пугу».* «ЛіМ».

*ПУД* ● **З'ЕСЦІ ПУД ЖАЛЕЗНАГА БОБУ.** Гл. пад'есці.

**З'ЕСЦІ ПУД СОЛІ** *з кім.* Гл. з'есці.

*ПУДЗІЛА* ● **П`УДЗІЛА АГАР`ОДНАЕ (ГАРОХАВАЕ).** *Адз. і мн. Вык. ці зваротак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Смешна, непрыгожа ці безгустоўна адзеты чалавек. *[Фруктаўшчык:] Я табе пастаю тут, хам ты, халера! Прэч адгэтуль, пудзіла гарохавае!* Ялоўчык.

**2.** Пусты чалавек, варты смеху. *Годзе вам блазнавацца. Абодва — пудзілы агародныя.* Машара. *—Дурніца! Пудзіла агароднае! Што нарабіла?! — з кулакамі кінуўся Анатоль да Пігулеўскай, але тут жа ачомаўся, выскачыў за дзверы.* Кандрусевіч. *[Мікола] злосным шэптам аблаяў: —Пудзіла ты агароднае. Праз цябе і мне жыцця зараз не будзе...* Крыга. *—Стой, пудзіла гарохавае! — закрычаў другі цень. —У каго страляеш? У сваіх страляеш!* Якімовіч.

*ПУДЛА* ● **ДАВАЦЬ ПУДЛА.** Гл. даваць.

*ПУДРЫЦЬ* ● **П`УДРЫЦЬ МАЗГ`І** *каму. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знарок гаварыць што-н. няправільнае, падманваючы каго-н. **Сін**.: абводзіць вакол пальца *каго*; абуваць у лапці *каго*; бакі забіваць *каму*; браць на арапа *каго*; браць на бога *каго*; браць на вудачку *каго*; браць на пушку *каго*; вадзіць за нос *каго*; вешаць лапшу <на вушы> *каму*; віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць у поле *каго*; гнуць дугі; гуляць у ката і мышку; дурыць галаву *каму* (у 1 знач.); задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); замазваць вочы *каму*; замыльваць вочы *каму*; запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму*; корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць

галаву *каму*; настаўляць акуляры *каму*; прадаць *каго і* грошы палічыць; пускаць пыл у вочы *каму,* сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць вочы *каму*; туманіць галаву *каму. —Не пудры мне мазгі, Сцяпук, —стукнуў яго па плячы Старадзетка.* Дайнека. *Анатоль Яўгенавіч нікому не пудрыць мазгі, зубы не загаворвае.* Мыслівец. *—Памыляецеся. —Я— бухгалтар завода... —Што ж ты мне тады мазгі пудрыў!* «Вожык».

*ПУЖАНАЯ* ● **ПУЖАНАЯ ВАРОНА.** Гл. варона.

*ПУЖЛІВАГА* ● **НЕ З ПУЖЛІВАГА ДЗЕСЯТКА.** Гл. дзесятка.

*ПУЗА* ● **АД П`УЗА.** *Прaст.* **1**. *Акал.* Уволю, удосталь, без абмежаванняў, колькі захочацца (есці, наесціся, напіцца і пад.). **Сін**.: да адвалу; еш не хачу *чаго*; за трох дурных; колькі душа жадае; колькі ўлезе (у 1 знач.); на поўную губу (у 1 знач.); на ўсю губу; не ў свой дух; хоць жывот распаражы; хоць распаражыся; як дурны на памінках; як на дзяды (у 1 знач.); як не ў сябе; як у прорву. *А тут паставілі цэлую міску [мёду], хлеба пшанічнага пайбуханкі раскроілі і драўляную лыжку паклалі перада мной. Еш, ад пуза.* Шамякін. *Я ўявіў, як пусцімся з кацялком цераз гароды, як забяромся ў чые-небудзь каноплі і ад пуза наядзімся смачнага супу.* Парахневіч.

**2**. У *безас. ужыв.* Вельмі многа чаго-н. **Сін**.: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго,* з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. —Ну, а як сяло? —А што сяло? Працы і ў сяле ад пуза.* Карамазаў. *Не садзіў, не расціў, а мочаных*

*яблык ад пуза.* Чыгрынаў.

**ПЛЯЧЫСТЫ НА ПУЗА.** Гл. плячысты.

**П`УЗА (ЖЫВ`ОТ) НА Н`ОС Л`ЕЗЕ (ПАЛ`ЕЗЕ)** *у каго. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Хто-н. у стане цяжарнасці. Звычайна пра жанчыну, якая не знаходзіцца ў шлюбе. *Ну, а каб у тваёй пуза на нос лезла, ну што б ты [рабіла], з хаты не выганіш.* Юрчанка. *[Аксана:] Я табе дам! Я табе пакажу, кошка ты! Схамянешся, калі пуза на нос палезе.* Макаёнак. *Мне перадаюць, што ў Мані маёй жывот на нос, як кажуць, лезе. Тут зусім, сынок, няёмка мне зрабілася.* Марчук.

**ХОЦЬ ПУЗА РАСПЕРАЖЫ.** Гл. расперажы.

*ПУЗАМ* ● **СВЯЦІЦЬ ГОЛЫМ ПУЗАМ.** Гл. свяціць.

*ПУЗЫР* ● **ЛЕЗЦІ Ў ПУЗЫР.** Гл. лезці.

**МЫЛЬНЫ ПУЗЫР.** Гл. бурбалка.

**ЯК МЫЛЬНЫ ПУЗЫР.** Гл. бурбалка.

*ПУЛЬСЕ* ● **ТРЫМАЦЬ РУКУ НА ПУЛЬСЕ** *чаго.* Гл. трымаць.

*ПУНКТ* ● **КУЛЬМІНАЦ`ЫЙНЫ П`УНКТ** *<чаго, у чым>. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Найвышэйшы рубеж, вяршыня чаго-н. *12 лістапада пагромы дасягнулі свайго кульмінацыйнага пункту.* Таўлай. *—Як вы думаеце, Сымон Іванавіч, ажэніцца наш знаёмы з гэтай дзяўчынай?.. — зацікавіла мяне. —Я ўпэўнены. Наш прыход — кульмінацыйны пункт у яго заляцанні.* Пальчэўскі. *Неабвержныя доказы! Яны сталі кульмінацыйным пунктам чатырохдзённага судовага працэсу над былым загадчыкам юрыдычнай кансультацыі.* «Звязда».

**П`УНКТ ГЛ`ЕДЖАННЯ (П`ОГЛЯДУ).** *Часцей ужыв. у адз. Дзейн. ці дап. Функц. не зам.* Пэўнае меркаванне, пэўныя адносіны да чаго-н. *У таленавітага крытыка, як правіла, бывае ў чымсьці нязгода з аўтарам, і ён гэту нязгоду выказвае, спрачаецца па нейкіх пытаннях, даказвае і сцвярджае свой пункт гледжання, — і менавіта таму яго цікава чытаць.* Гілевіч. *—А як ты думаеш, раскажы нам, — звярнуўся да яе дырэктар. Дзяўчына выказала свой пункт гледжання.* «Настаўн. газ.» *Я падзяляю пункт погляду тых, хто гаварыў, навошта краіне столькі міністраў.* «Звязда».

*ПУНКТУ* ● **З П`УНКТУ ГЛ`ЕДЖАННЯ (П`ОГЛЯДУ)** *чыйго, каго, чаго. Акал Функц. не зам.* З якой-н. пазіцыі, у адпаведнасці з чым-н. **Сін**.: з гледзішча *чыйго, якога, каго, чаго*; у святле *чаго. Чытачу мастацкага твора павінна быць зразумела, з чыйго пункту гледжання аўтар малюе людзей або падзеі, чыімі вачыма ён глядзіць на свет.* Шкраба. *Не вельмі імпазантна выглядаў гэты ўчастак з пункту гледжання*

*сучаснай тэхналогіі.* «Вожык». *Якія яшчэ праблемы, з пункту гледжання суддзі, патрабуюць самага тэрміновага вырашэння?* «Звязда».

*ПУП* ● **АЖ П`УП ТРАШЧ`ЫЦЬ (-`АЎ).** *Акал. Разм.* З вялікім напружаннем сілы (рабіць, працаваць і пад.). **Сін**.: ва ўсе лапаткі (у 2 знач.); высалапіўшы язык (у 3 знач.); з апошніх сіл; з апошняга; з усёй сілы (у 1 знач.); з усіх жыл (у 1 знач.); з усіх чатырох (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 1 знач.); на поўную сілу (у 1 знач.); на ўсю моц (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 1 знач.). *Адзін ляснік цягне аж пуп трашчыць, а другі за яго спінаю адлежваецца.* Карамазаў. *Канюшыну пляжыць — от там трэба пацягаць [касу]. Аж пуп трашчыць.* Гіль. *Чалавек.. на працы пнецца, аж пуп трашчыць.* Асіпенка.

**БРАЦЬ НА ПУП.** Гл. браць.

**П`УП ЗЯМЛ`І.** *Мн. не ўжыв. Часцей у знач, вык. Разм. Часцей іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Самы важны, самы галоўны; лепшы за ўсіх. *Нічога — гэта не самае лепшае, безумоўна, аднак лепш, чым задзіраць нос і думаць, што ты пуп зямлі.* Шамякін. *Ніяк не мог [Яновіч] пераламаць сябе, агледзецца. Усё думаў, што ён адзін пуп зямлі, што яму ўсё дазволена.* А.Жук.

**РВАЦЬ ПУП.** Гл. рваць.

**ХОЦЬ ПУП РАСПЕРАЖЫ.** Гл. расперажы.

<u>*Сінець, ссінець, пасінець*</u> **ЯК ГУС`ІНЫ П`УП.** *Акал. Разм.* Вельмі моцна. *Цётка Уліта ад злосці чырванее, потым сінее як гусіны пуп.* Лынькоў. *Глядзі, як лупіць кашаль!.. Напоўзаўся да цемнаты, ссінеў як пуп гусіны...* Зуёнак. *Ніна.. вярнулася, падала брату карэц, кавалак агурка. —Выпі з дарогі. Пасінеў увесь як гусіны пуп... Захварэеш яшчэ.* М.Капыловіч.

*ПУСКАЕЦЦА* ● **ПЫЛ ПУСКАЕЦЦА Ў ВОЧЫ** *каму.* Гл. пыл.

*ПУСКАЙ* ● **Х`ОЦЬ ПА В`ЕТРЫ ПУСК`АЙ.** *Толькі ў гэтай форме. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн., які абазначае назвы адзення. Вельмі лёгкі і зусім не засцерагае ад холаду. *Пасуляніс піша.. з Якуцка, што нашы.. галадаюць, зіма ідзе.., а іх адзенне хоць па ветры пускай.* Цётка. *Кацечка Іванова тузанула Алаізу за рукаво. —Зашпіліся! — скасілася на яе старэнькі плашчык. — І так хоць па ветры пускай!* Коўтун.

*ПУСКАННЕ* ● **ПУСК`АННЕ П`ЫЛУ Ў В`ОЧЫ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Стварэнне падманлівага ўражання пра сябе з выхвальваннем і паказам чаго-н. з лепшага боку. **Сін.**: адвод вачэй; гульня ў ката і мышку; дымавая заслона; навешванне лапшы на вушы; пацёмкінская вёска; пусканне туману; траянскі конь (у 1

знач.). *Падобныя нараканні, апрача непатрэбнай мітусні і пускання пылу ў вочы, ніякай рэальнай карысці не маюць і ўвогуле з'яўляюцца справай марнай і пустой.* Лецка. *У нас, маўляў, каласок на калгасным полі не зваляецца, на розныя гулі-базары, прыманку заездджых гастралёраў, лядовыя палацы.., на пусканне пылу ў вочы грош дарэмна не пусціцца.* «ЛіМ». *Я расцэньваю заяву міністра як пусканне пылу ў вочы сусветнай грамадскасці.* «Нар. воля».

**ПУСК`АННЕ ТУМ`АНУ.** *Мн. не ўжыв. Дзейн. і дап. Разм. Неадаб.* Стварэнне падманлівага ўражання пра сябе з выхвальваннем і паказам чаго-н. з лепшага боку. **Сін.:** адвод вачэй; гульня ў ката і мышку; дымавая заслона; навешванне лапшы на вушы, пацёмкінская вёска; пусканне пылу ў вочы; траянскі конь (у 1 знач.). *У сферы, пра якую сёння гаворым, трэба рашуча спыніць самападман, паказуху і пусканне туману, адкінуць звычку агульнымі валавымі паказчыкамі змазваць канкрэтную і даволі нярадасную карціну.* Гілевіч.

*ПУСКАЦЦА* ● **ПУСК`АЦЦА (ПУШЧ`АЦЦА) У Х`ОД.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Выкарыстоўвацца, прымяняцца. *Усе пачынаюць з такіх матываў, з такой філасофіі, што слухаеш, разявіўшы рот, і ахаеш. Медыцына, сацыялогія, палітыка — усё пускаецца ў ход.* Шамякін. *Вудачкі, вуды, начныя шнуры, венцер, восці, сачок — уся гэта рыбацкая снасць пушчалася ў ход.* Брыль. *Жалезныя прэнты, колле, кулакі, а іншы раз і сякера, пускаліся ў ход.* Сачанка. *І пускаліся ў ход усе да аднаго — і рабочыя, і выязныя, — калі раптоўная хмара гразілася дажджом і трэба было звезці з поля снапы...* Ракітны. **ПУСЦІЦЦА Ў ХОД.** *Зак.*

*ПУСКАЦЬ* ● **ДАВАЦЬ ДЫ З РУК НЕ ПУСКАЦЬ** *што.* Гл. даваць.

**НЕ ПУСК`АЦЬ НА В`ОЧЫ (НА В`ОКА)** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Не жадаць бачыць, не выносіць прысутнасці каго-н. *Не пускала на вочы Маруся і гаспадаровага сына, нават калі ён і падкідаў ёй.. свежае травы ці бярэмя бурачніку.* Васілевіч. *І пані Антаніда разумела, што яна нічога не зробіць. Тады яна замыкалася ў сваіх пакоях, не пускаючы на вока нікога.* Караткевіч. **НЕ ПУСЦІЦЬ НА ВОЧЫ (НА ВОКА)** *каго. Зак. Самому ісці да Данілы? З хаты прагоніць, на вочы не пусціць...* Чарнышэвіч.

**НЕ ПУСК`АЦЬ НА ПАР`ОГ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не прымаць у сваім доме, не дазваляць заходзіць у свой дом. *[Журавіна:] Разумныя дык і на парог не пускалі яго, але ж знайшліся і такія дурніцы, што закахаліся ў яго.* Кобец. **НЕ ПУСЦІЦЬ НА ПАРОГ** *каго. Зак. У другой хаце Наташу не пусцілі на парог.*

Асіпенка. *[Алесь] падумаў пра Вольгу, пра яе плач і крык, пра яе пагрозу не пусціць рызыкантку на парог...* Шамякін.

**ПУСК`АЦЬ Б`УРБАЛКІ (ПУХІР`Ы).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Тануць, тапіцца, гінуць у вадзе. **ПУСЦІЦЬ БУРБАЛКІ (ПУХІРЫ).** *Зак. Неаднойчы з'яўлялася адчуванне, што дзед, набраўшы моладзі, вучыць яе па-дзедаўску: штурхне ў бурлівую плынь ракі жыцця, а сам стаіць на беразе і, пасміхаючыся, назірае, хто выплыве, а хто «пусціць бурбалкі».* Шамякін. *—Ледзьве ўцёк. — Глядзі ты! Там жа дрыгва о-ёй! — Ды ўжо ж! Думаў, пухіры пушчу.* Быкаў.

**ПУСК`АЦЬ ДА Б`ОГА** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знішчаць, расстрэльваць. **Сін**.: адпраўляць у штаб духоніна *каго*; выводзіць у расход *каго*; пускаць кулю ў лоб *каму*; пускаць на той свет *каго*; пускаць у царства нябеснае *каго*; ставіць да сценкі *каго. Ці мала трапляецца яшчэ розных правакатараў. З такімі, таварыш начальнік, мы не цырымонімся, пускаем іх проста да бога.* Лынькоў. **ПУСЦІЦЬ ДА БОГА** *каго. Зак.*

**ПУСК`АЦЬ <З> АГН`ЁМ** *што, каго. Незак. Часцей у зак. тр. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Спальваць, знішчаць агнём. **Сін**.: пускаць <з> дымам *каго, што*; пускаць з дымам да бога *што, каго*; пускаць свечкай да бор *што, каго*; пускаць <чырвонага> пеўня *<каму, куды, дзе>. [Настуля:] Яндрыхоўскі сказаў, калі хоць адзін партызан шавяльнецца, дык пусціць з агнём і хату, і людзей.* Крапіва. *Чую: сочыць за намі і ноччу і днём. Заяві, а ён дом ноччу пусціць з агнём.* Куляшоў. **ПУСЦІЦЬ <З> АГНЁМ** *што, каго. Зак. Ляховіч гэты — ён старшым быў — агледзеўся, памеркаваў. Не, — кажа, — нельга. Вёска блізка». Маўляў, машыну знішчым — вёску агнём пусцяць. Так і не даў каманды. А немцы вывалаклі машыну, селі і газанулі.* Быкаў.

**ПУСК`АЦЬ <З> Д`ЫМАМ** *што, каго. Незак. Часцей у зак. тр. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Спальваць, знішчаць агнём. **Сін**.: пускаць <з> агнём *што, каго*; пускаць з дымам да бога *што, каго*; пускаць свечкай да бога *што, каго*; пускаць <чырвонага> пеўня *<каму, куды, дзе>*. **ПУСЦІЦЬ <З> ДЫМАМ** *што, каго. Зак. Шмат лесу пусцілі з дымам самі белапалякі, помсцячы краіне за партызан, якіх гэты лес туліў і грэў.* Крапіва. *—Гэта ўсё Лявон-сельсаветчык. Каб не ён, жылі б даўно на хутарах. Ды настаўніца з ім... Трэба паказаць ім сваю сілу. —Дымам пусцім...* Галавач. *[Сцёпка] толькі падумаў, што было б здорава пусціць з дымам той мост...* Быкаў. *Ды што хату шкадаваць. Немцы ўсё могуць пусціць з дымам.* Пташнікаў.

**ПУСК`АЦЬ З Д`ЫМАМ ДА Б`ОГА** *што, каго. Незак. Часцей у зак. тр. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паліць, спальваць, знішчаць агнём. **Сін**.: пускаць <з> агнём *што, каго*; пускаць <з> дымам *што, каго*; пускаць свечкай да бога *што, каго*; пускаць <чырвонага> пеўня *<каму, куды, дзе>*. **ПУСЦІЦЬ З ДЫМАМ ДА БОГА** *што, каго. Зак. [Сяржант:] Загад пана выкананы: на мосце варта з кулямётам выстаўлена, парныя пасты вакол вёскі і маёнтка расстаўлены, усе сваякі тых, што ў лесе, сабраны ў адну хату і запёрты, як было загадана. [Пан Яндрыхоўскі:] Па майму загаду пусціць з дымам... да бога.* Крапіва. *Пры адыходзе [падпольшчыкі] сказалі гаспадару: —Твой сын старшыня гуртка? Так? Скажы яму, каб ён ім не быў... Бо прыйдзем і з дымам пусцім хату да бога.* Пестрак.

**ПУСК`АЦЬ КАЗЛ`А Ў АГАР`ОД (У КАП`УСТУ).** *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дапускаць каго-н. туды, куды ён імкнецца і дзе ён найбольш небяспечны. **ПУСЦІЦЬ КАЗЛА Ў АГАРОД (У КАПУСТУ).** *Зак. —Няўжо вы мяне дурнем лічыце? —пакрыўджана сказаў Міладоўскі, калі яму намякнулі, што ён пусціў казла ў агарод.* «Вожык». *Але ж выбраць Збана намеснікам гэта ўсё роўна, што пусціць казла ў капусту!.. —Аўдзей нам праўду казаў. Пусцілі казла ў капусту, — прамовіў першы голас.* Шашкоў.

**ПУСК`АЦЬ КАР`ЭННЕ (КАРАН`І).** *Незак. Разм.* **1**. *<дзе>*. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Трывала асталёўвацца дзе-н., уладкоўвацца на доўгі тэрмін. **Сін**.: віць <сваё> гняздо (у 1 знач.); кідаць якар *дзе*. **Ант**.: знімацца з якара. *Пасля вайны, паступіўшы ў чыгуначную міліцыю, Брандыба пускае карані ў Клінску. Не толькі сабе дамок збудаваў, а і радні пасабіў...* Навуменка. **ПУСЦІЦЬ КАРЭННЕ (КАРАНІ).** *Зак. Выпускнікі мясцовай дзесяцігодкі.. вырашылі застацца ў вёсцы і стварыць свае сем'і. Большасць з іх пусціць карані на роднай зямлі.* «Звязда». *Дзядзька прыжыўся тут, пусціў карэнне і не хацеў нават думаць аб іншых мясцінах.* Караткевіч. *Дзве замужнія дачкі і два жанатыя сыны аселі ў Копішчы і Валяр'янаве, у суседніх вёсках, астатнія трое пайшлі ў навуку, пусцілі сваё карэнне ў далёкім свеце.* Вышынскі.

**2**. *<у кім>*. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Набываць сілу, укараняцца. Пра з'явы, дзеянні, пачуцці і пад. **ПУСЦІЦЬ КАРЭННЕ (КАРАНІ).** *Зак. Партызанскі рух пусціў глыбокія карані ў народзе акупіраваных зямель.* Колас. *У сяле.. ідзе скрытая антыкалгасная агітацыя, якая шырока пусціла карэнне.* Мележ.

**ПУСК`АЦЬ (КІД`АЦЬ) ПР`ОБНЫ Ш`АР.** *Незак. Функц. не зам.*

Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Разведваць, высвятляць што-н. з дапамогай якіх-н. прыёмаў, хітрыкаў. **Сін**.: закідаць вуду; зандзіраваць глебу; намацваць глебу. **ПУСЦІЦЬ (КІНУЦЬ) ПРОБНЫ ШАР.** *Зак. —Ну як?.. — Ды паступова разгортваецца клубок, — невядома з якой прычыны пусціў я пробны шар. —Але да канца ўсё яшчэ далёка.* Караткевіч. *—Рана пайшла? —Не позна, дванаццаці не было. —Чаму? Звычайна яна заставалася да канца, — Корзун гэтага не ведаў, проста пусціў пробны шар. Угадае — Пляхоцкая пабаіцца маніць.* Шыцік. *Ты стаў такі сур'ёзны, што і слова не скажы. Я кінула пробны шар, як ты кажаш, а ты ўжо — я рашыла, я рашыла.* Дамашэвіч.

**ПУСК`АЦЬ К`УЛЮ Ў Л`ОБ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Забіваць каго-н. з агнястрэльнай зброі. **Сін**.: адпраўляць у штаб духоніна *каго*; выводзіць у расход *каго*; пускаць да бога *каго*; пускаць на той свет *каго*; пускаць у царства нябеснае *каго*; ставіць да сценкі *каго.* **ПУСЦІЦЬ КУЛЮ Ў ЛОБ** *каму. Зак. За ўсё заплаціць бізнесмен — магнат ад «дэмакратыі». Пусціць любому кулю ў лоб за грошы — шмат аматараў.* Скрыпка.

**ПУСК`АЦЬ НА В`ЕЦЕР** грошы, сродкі, час і пад. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дарэмна траціць, неашчадна расходаваць. **Сін**.: выкідаць на сметнік (у 1 знач.); кідаць на вецер *грошы і* пад.; пускаць у трубу *што. Чым больш меркаваў Глушак, тым больш цвярдзела перакананне: што б ні было, яму няможна пускаць на вецер дабра, аддаваць самому за нішто.* Мележ. *Толькі маладыя могуць пускаць на вецер не дні, а месяцы і гады.* Шамякін. **ПУСЦІЦЬ НА ВЕЦЕР** грошы, сродкі, час і пад. *Зак. —Калі так будзеце гаспадарыць, дык тое, што папярэднік набыў, вы хутка пусціце на вецер, — выпаліла Алёнка.* Гурскі.

**ПУСК`АЦЬ НА СВ`ЕТ.** *Незак. Разм.* **1**. *каго.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нараджаць, даваць жыццё каму-н. **ПУСЦІЦЬ НА СВЕТ.** *Зак. Пад сэрцам у яе [Любы] жыла істота, якую яна рыхтавалася пусціць на свет.* Чорны. *Велізарнае патомства ён [Адам] пусціў на свет пасля.* Крапіва.

**2**. *каго, што.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Даваць пачатак каму-, чаму-н., быць прычынай з'яўлення каго-, чаго-н. *Ой, брала вясна ў сонца ключы, адчыняла сырую зямельку, пускала на свет траву-мураву, адзявала ў лісце бярозы.* Купала. **ПУСЦІЦЬ НА СВЕТ.** *Зак. Чым, напрыклад, аса горш ад авадня або сляпня? І то брыда, і то брыда. Але калі прырода пусціла іх на свет, то, можа, яна мела на гэта свой погляд.* Колас.

**ПУСК`АЦЬ НА Т`ОЙ СВ`ЕТ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Забіваць, знішчаць, расстрэльваць. **Сін**.: адпраўляць у штаб духоніна *каго*; выводзіць у расход *каго*; пускаць да бога *каго*; пускаць кулю ў лоб *каму*; пускаць у царства нябеснае *каго*; ставіць да сценкі *каго.* **ПУСЦІЦЬ НА ТОЙ СВЕТ** *каго. Зак. [Хвядос:] Я хоць і ў паліцыі служыў, а нікога на той свет не пусціў.* Ваданосаў. *Згодзен, што не з усімі бандытамі ты знаёмы. Некаторыя могуць пусціць цябе на той свет.* Навуменка.

**ПУСК`АЦЬ ПАД АДХ`ОН** *што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. **1**. Рабіць, выклікаць крушэнне (цягніка, эшалона). **ПУСЦІЦЬ ПАД АДХОН** *што. Зак. Перадавалі, што яны [партызаны] за месяц некалькі эшалонаў нямецкіх пусцілі пад адхон.* Лынькоў. *Тэрмін сапраўды кароткі быў. Але цягнік мы, тым не менш, пусцілі пад адхон.* Чыгрынаў.

**2**. Пераставаць лічыцца з чым-н., не прызнаваць чаго-н. **ПУСЦІЦЬ ПАД АДХОН** *што. Зак. ЗША пусцілі, як вядома, пад адхон Дагавор АСУ-2.* «Звязда». *[Мякішаў:] Усяму свой час. І я ў свой час і для свайго часу правільна жыў. І ішоў таксама правільна. Дык той час цяпер пад адхон пушчаны.* Маўзон.

**ПУСК`АЦЬ ПАД Н`ОЖ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рэзаць, забіваць (жывёлу). *[Дабрагост:] Чаго ты, кажа, седзячы дaседзішся? Пускай пад нож цялушку — і вязі!..* Гілевіч. **ПУСЦІЦЬ ПАД НОЖ** *каго. Зак. Гэта ж Буланага, калі ніхто не купіць, трэба будзе пусціць пад нож на шкуру...* Чорны. *А я хачу паглядзець, што вы будзеце рабіць, як апошнюю Казановічаву авечку пад нож пусціце.* Кудравец.

**ПУСК`АЦЬ (ПАДПУСК`АЦЬ) <ЧЫРВ`ОНАГА> П`ЕЎНЯ (ПЕВУН`А)** *<каму, куды, дзе>. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зламысна падпальваць што-н. **Сін**.: пускаць **<з>** агнём *што, каго*; пускаць **<з>** дымам *што, каго*; пускаць з дымам да бога *што, каго*; пускаць свечкай да бога *што, каго. Сям-там яны [мужыкі] пачалі нават пускаць чырвонага пеўня ў маёнтках.* Скрыган. **ПУСЦІЦЬ (ПАДПУСЦІЦЬ) <ЧЫРВОНАГА> ПЕЎНЯ (ПЕВУНА)** *<каму, куды, дзе>. Зак. Сваіх гаспадарак яны [сяляне] былі пазбаўлены колькі дзён назад, калі паны пусцілі ў вёску чырвонага пеўня.* Бядуля. *У жнiўні сорак другога мы зрабілі нядоўгі рэйд за Дняпро. Мелі мэту — сарваць акупантам хлебанарыхтоўкі, пусціць чырвонага пеўня на іх склады.* Шамякін. *Толькі і ў гэтым зрубе пажыць Піліпу не ўдалося — зноў на вясне хтосьці.. чырвонага пеўня падпусціў..* Сачанка. *Ты, напэўна, помніш, як тут млын грымеў паравы. А партызаны.. пеўня*

*падпусцілі ў вайну...* Ракітны. *Адзін ёсць шлях: пусціць паскудзе тайком уночы певуна.* Колас.

**ПУСК`АЦЬ ПА РУК`АХ** *што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Перадаваць ад аднаго чалавека да другога. **ПУСЦІЦЬ ПА РУКАХ** *што. Зак. —Прыёмнік устанавілі? – пытае Валюжыч. — Зводкі запісвайце, а я буду хлопца падсылаць. Пусцім па руках, як тады газеты.* Навуменка. «*Зрабіце самі люльку міру і зноў пусціце па руках», — крычаць нам градкі жвіру на ўсіх пяці мацерыках.* Маляўка.

**ПУСК`АЦЬ П`ЕЎНЯ.** *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выдаваць піскл івыя гукі, сарваўшыся на высокай ноце пры спяванні, маўленні. *Жанчына таксама старалася паказаць свае здольнасці — высільвалася, ад чаго зрывалася, часта пускала пеўня.* Калодзежны. **ПУСЦІЦЬ ПЕЎНЯ.** *Зак.*

**ПУСК`АЦЬ (ПУШЧ`АЦЬ) З Т`ОРБАЙ (-АМІ) <ПА СВ`ЕЦЕ>** каго. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даводзіць да беднасці, да жабрацтва; разараць. *Ад сябе незычліўцы Сімонавы даводзілі, што Гамрэкелі не раз пушчаў з торбай сваіх кампаньёнаў.* Самуйлёнак. **ПУСЦІЦЬ З ТОРБАЙ (-АМІ) <ПА СВЕЦЕ>** *каго. Зак. [Даніла:] А без хлеба і без прытулку пані людзей пакінула, з торбамі пусціла — гэта таксама ад слабасці ды ад вялікай дабраты?* Крапіва. *Яшчэ і хату адбяруць у цябе, і самога з торбаю па свеце пусцяць, калі самому не ратавацца.* Чорны. *Няўжо Казік з Пляшэўскім дапусцяцца, каб іх бацькоў гэтыя антыхрысты з торбай пусцілі?* Грахоўскі.

**ПУСК`АЦЬ П`ЫЛ (ТУМ`АН, Д`ЫМ) У В`ОЧЫ** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выхваляючыся, падманваць каго-н., ствараць падманлівае ўражанне пра сябе. **Сін**.: абводзіць вакол пальца *каго*; абуваць у лапці *каго*; бакі забіваць *каму*; браць на арапа *каго*; браць на бога *каго*; браць на вудачку *каго*; браць на пушку *каго*; вадзіць за нос *каго*; вешаць лапшу <на вушы> *каму*, віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць у поле *каго*; гнуць дугі; гуляць у ката і мышку; дурыць галаву *каму* (у 1 знач.); задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); замазваць вочы *каму*; замыльваць вочы *каму*; запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму*; корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму*; настаўляць акуляры *каму*; прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму*; сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць вочы *каму*; туманіць галаву *каму*. *Я падумаў, што чалавек працуе нарыхтоўшчыкам. Чаму? Нарыхтоўшчыкі і забеспячэнцы любяць пускаць пыл у вочы.* «ЛіМ». *Надта лоўка пускаў ён [Годвад] туман у вочы, але было відаць нават і мне.., што проста не хочацца яму сесці*

*ў польскім горадзе ў літоўскую тарыбу.* Гарэцкі. *Мы сустракаліся спачатку ў клубе. Ну якія там сустрэчы! Патанцуеш, пагутарыш, а дым у вочы пускаць, як іншыя, я не ўмеў.* Чарнышэвіч. **ПУСЦІЦЬ ПЫЛ (ТУМАН, ДЫМ) У ВОЧЫ** *каму. Зак. Разведчыкі з выгляду зухаватыя, рашучыя. Любяць пусціць пыл у вочы.* Навуменка. *[Жлукта:] Я думаю пачаць з гэтага цецерука, з Канягіна... Прасцяку лягчэй пыл у вочы пусціць.* Крапіва. *Сайка здзівіўся яшчэ больш, а Цімох яшчэ і туману пусціў у вочы.* Колас.

**ПУСК`АЦЬ САБ`Е К`УЛЮ Ў Л`ОБ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Страляючы ў сябе, канчаць жыццё самагубствам. **Сін**.: накладваць на сябе рукі. **ПУСЦІЦЬ САБЕ КУЛЮ Ў ЛОБ.** *Зак. «Дай пісталет!» Бліснула жудасная думка: ці не хоча ён пусціць сабе кулю ў лоб?* Шамякін. *Не, браток Варонін, каб ты мог пусціць сабе кулю ў лоб, дык зрабіў бы гэта раней. І не стаў бы бобікам.* Леванові.

**ПУСК`АЦЬ СВ`ЕЧКАЙ ДА Б`ОГА** *што, каго. Незак. Часцей у зак. тр. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паліць, спальваць, знішчаць агнём. **Сін**.: пускаць <з> агнём *што, каго*; пускаць <з> дымам *што, каго*; пускаць з дымам да бога *што, каго*; пускаць <чырвонага> пеўня *<каму, куды, дзе>*. **ПУСЦІЦЬ СВЕЧКАЙ ДА БОГА** *што, каго. Зак. —Ось так табе і пачнуць наводзіць следства, — гарачыўся Рыгор: хто ды што? Следства, можа, пазней павядуць, а спачатку пусцяць вёску свечкай да бога. Пагараць і вінаватыя і невінаватыя.* Колас.

**ПУСКАЦЬ СЛОВЫ НА ВЕЦЕР.** Гл. кідаць.

**ПУСК`АЦЬ СЛЯЗ`У.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Плакаць. **Сін**.: абліватца слязамі; бярозаю ліцца; вачэй не асушваць; выплакаць <усе> вочы; выціскаць слязу (у 1 знач.); ліці слязу *<па кім>*; пецць рэпку; разводзіць сырасць; распускаць нюні (у 1 знач.); умывацца слязамі. *Я смяюся? Я гавару, што бачыў. А калі я не пускаю слёз, гаворачы, дык ужо бяда? Плакаць трэба?* Чорны. **ПУСЦІЦЬ СЛЯЗУ.** *Зак. [Максім:] Трафімка слязу пусціў, і я не вытрываў, размасліўся...* Купала. *Запрог бацька каня. Забрала Аленка свае пакуначкі, кніжкі і ўсе патрэбныя рэчы. Заплакала маці, пусціла слязу і Аленка.* Колас.

**2**. *Часцей неадабр.* Старацца разжаліць, выклікаць да сябе спачуванне. *Майчыце вы, бяда з гэтым угнаеннем! Толькі што ад першага [сакратара]. Прыжымісты ён дзядзька. Давялося слязу пускаць.* Кузьмянкоў. **ПУСЦІЦЬ СЛЯЗУ.** *Зак. [Пані Яндрыхоўская:] Але ж гэта справа дзяржаўная, сын можа мяне і не паслухаць. [Даніла:] Пішыце так, каб паслухаў. Слязу пусціце. Вы гэта ўмееце, вучыць вас*

*не трэба.* Крапіва. *Не верыце? Не верыце? Знаю я вас! Твой бацька — таксама — сіратою ўмее! Слязу пусціць!..* Мележ.

**ПУСК`АЦЬ У ДЗ`ЕЛА** *што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Прымяняць, выкарыстоўваць што-н. Пра інструмент, зброю і пад. **Сін**.: пускаць у ход *што* (у 1 знач.). *Тады іх згода прападала, між імі бойка вынікала. Пускаў тут Юзік лыжку ў дзела; не раз лабаціна трупцела ў сястрычак Гэлі ці Ганулі.* Колас. **ПУСЦІЦЬ У ДЗЕЛА** *што. Зак.*

**2**. Выкарыстоўваць што-н. у сваёй практычнай дзейнасці, знаходзіць практычнае прымяненне чаму-н. Пра сродак, прыём і пад. **Сін**.: пускаць у ход *што* (у 2 знач.). **ПУСЦІЦЬ У ДЗЕЛА** *што. Зак. Новаму дзераву, мама, таксама хваціць дзела, не бойцеся. Усё пусцім у дзела. І новае і старое.* Мележ. *[Пану] воўчы зуб не памагае, дык палітыка другая ў яго як бач паспела — хвост пусціць лісіны ў дзела.* Крапіва.

**ПУСК`АЦЬ У ПАВ`ЕТРА** *што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Узрываць. **ПУСЦІЦЬ У ПАВЕТРА** *што. Зак. Там не толькі з электрастанцыяй управіліся. З дзесятак гатовых танкаў таксама пусцілі ў паветра.* Лынькоў. *Арэшнік рос якраз недалёка ад мастка, які мы наважылі пусціць у паветра.* Навуменка.

**ПУСКАЦЬ У РАСХОД** *каго.* Гл. выводзіць.

**ПУСК`АЦЬ У ТРУБ`У** *што, каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даводзіць да беднасці, да галечы. **Сін**.: выкідаць на сметнік (у 1 знач.); кідаць на вецер *грошы і* пад.; пускаць на вецер *грошы* і пад. **ПУСЦЩЬ У ТРУБУ** *што, каго. Зак. [Андрэеў:] Па такой працы — нядоўга ўвесь завод у трубу пусціць...* Кобец. *Ну, што, напрыклад, будзе з Сурмілам, калі ён пусціць калгас у трубу?* Блакіт.

**ПУСК`АЦЬ У Х`ОД** *што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Прымяняць, выкарыстоўваць што-н. Пра інструмент, зброю і пад. **Сін**.: пускаць у дзела *што* (у 1 знач.). *Да гэтага ж часу ніхто не ведаў аб ваяцкіх здольнасцях дзеда Талаша. Праўда, бывалі выпадкі, калі дзеду Талашу здаралася пускаць у ход кулакі.* Колас. **ПУСЦІЦЬ У ХОД** *што. Зак. Верхавыя пусцілі ў ход нагайкі.* Чорны. *Генерал, відаць, толькі і чакае прычыны, каб пусціць у ход зброю.* Якімовіч.

**2**. У сваёй практычнай дзейнасці выкарыстоўваць што-н., знаходзіць практычнае прымяненне чаму-н. Пра сродак, прыём і пад. **Сін**.: пускаць у дзела *што* (у 2 знач.). *Глядзі, Чмаруцька, язык свой не*

*вельмі пускай у ход. Як што, прытарможвай яго.* Лынькоў. **ПУСЦІЦЬ У ХОД** *што. Зак. Вось і пусціў наш Жук у ход тут талент свой сабачы.* Крапіва. *[Моцкін:] І Гарошка з «Партызана» такі ж перадавік. На дваццаць працэнтаў фікцыі... [Калібераў:] І-і-ігх!.. Мо-о-цкі-ін!.. Сакрэт свой пусціў у ход?!* Макаёнак.

**ПУСК`АЦЬ У Ц`АРСТВА НЯБ`ЕСНАЕ** *каго. Незак. Часцей у зак. тр. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Забіваць, знішчаць. **Сін**.: адпраўляць у штаб духоніна *каго*; выводзіць у расход *каго*; пускаць да бога *каго*; пускаць кулю ў лоб *каму*; пускаць на той свет *каго*; ставіць да сценкі *каго.* **ПУСЦІЦЬ У ЦАРСТВА НЯБЕСНАЕ** *каго. Зак. — Таццяна, дзе палонны? —Уцякаў, сволач. Пусціла ў царства нябеснае...* Навуменка.

*ПУСТА* ● **КАБ ПУСТА БЫЛО** *каму.* Гл. было.

*ПУСТАЯ* ● **ПУСТАЯ ГАЛАВА.** Гл. галава.

**ПУСТАЯ МАЛАТАРНЯ.** Гл. малатарня.

*ПУСТОГА* ● **ДА ПУСТОГА КАНЦА.** Гл. канца.

**ПАЦЕХА З ПУСТОГА МЕХА.** Гл пацеха.

**ПЕРАЛІВАННЕ З ПУСТОГА Ў ПАРОЖНЯЕ.** Гл. пераліванне.

**ПЕРАЛІВАЦЬ З ПУСТОГА Ў ПАРОЖНЯЕ.** Гл. пераліваць.

*ПУСТОЕ* ● **ПУСТОЕ МЕСЦА** *<для каго>.* Гл. месца.

*ПУСТОЙ* ● **АД ПУСТОЙ БОЧКІ ЗАТЫЧКА.** Гл. затычка.

*ПУСТЫ* ● **ЗА ПУСТЫ МЕХ <А Ў МЯХУ СМЕХ>.** Гл. мех.

**НА ПУСТЫ ЖЫВОТ.** Гл. жывот.

**ПУСТЫ ГУК.** Гл. гук.

**ПУСТЫ МЛЫН.** Гл. млын.

**СЫХОДЗІЦЬ НА ПУСТЫ КАНЕЦ.** Гл. сыходзіць.

*ПУСТЫМ* ● **НА ПУСТЫМ МЕСЦЫ.** Гл. месцы.

*ПУСТЫМІ* ● **З ПУСТЫМІ КІШЭНЯМІ.** Гл. кішэнямі.

**З ПУСТЫМІ РУКАМІ.** Гл. рукамі.

*ПУСТЫНІ* ● **МАРНЫ ЛЯМАНТ У ПУСТЫНІ.** Гл. лямант.

*ПУСТЫЯ* ● **ПУСТЫЯ КІШЭНІ** *ў каго.* Гл. кішэні.

*ПУСЦІ* ● **ПУСЦ`І ПАВАЛ`ЮСЯ.** *Звычайна толькі ў гэтай форме. Разм. Неадабр.* **1**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці канкр. прадмета. Вельмі дрэнны. **Сін**.: адны слёзы; глядзець няма на што; з рук вон (у 2 знач.); кату пад хвост (у 2 знач.); кульгаць на абедзве нагі (у 3 знач.); курам на смех (у 1 знач.); на ліхога казана; не вытрымлівае ніякай крытыкі; не лезе ні ў якія вароты; нікуды не варты; ні к чорту (у 1 знач.); ні к чорту не варты; ні самому паглядзець ні людзям паказаць; смеху варты. *Тут, пэўна, гэта газета толькі выглядам*

*такая — пусці павалюся, а калі забрацца між радкоў... Але на такое здольныя толькі таварышы з вобласці, як больш спрактыкаваныя.* Палітыка. *Ну, а нам з Ахрэмам сабрацца — раз плюнуць. Лахманы на плечы, торбы крыж-накрыж, кійкі ў рукі... Ідзём, кульгаем па мястэчку. Нямоглыя такія — пусці павалімся...* Місько.

**2**. *Акал.* Вельмі дрэнна; як папала, нядбала, без ахвоты і старання (рабіць, працаваць і пад.). **Сін**.: абы дзень адбыць; абы дзень да вечара (у 1 знач.); абы з рук; з плеч ды ў печ (у 2 знач.); з пятага на дзесятае (у 2 знач.); па канец рук; праз пятае ў дзесятае (у 2 знач.); спусціўшы рукавы; сяк-так (у 2 знач.); сяк-так накасяк <абы не палюдску>; цапам-лапам; цапу-лапу; цераз пень калоду (у 1 знач.); цяп ды ляп. **Ант**.: душы паслухаючы; з аганьком; закасаўшы рукавы; не пакладаючы рук. *І галоўнае — дысцыпліны няма. Працуюць так, як гаворыцца, пусці павалюся, абы дзень адбыць.* Лынькоў.

*ПУСЦІЦЦА* ● **ПУСЦІЦЦА Ў ХОД.** *Зак. да* **ПУСКАЦЦА Ў ХОД.**

**ПУСЦ`ІЦЦА (УШ`ЫЦЦА) У САБ`АЧУЮ СК`УРУ.** *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Страціць сумленне, разбэсціцца; стаць нягоднікам. *[Даніла:] І калі хто з нас пусціцца ў сабачую скуру і перакінецца на бок ворага — няхай пральецца яго чорная кроў...* Крапіва. *Але што ж ты зробіш, калі няма ў нас ніякага способу ў руках. Ды каторыя разумнейшыя з нас з табой, і тыя ў сабачую скуру пусціліся.* Лынькоў. *Гэта ж каб мая Нюрка была путная, якая б радасць была ў мяне мець родную сястру. Дык жа пусцілася ў сабачую скуру.* Васілевіч. *І вось у той пакутлівы час Чубар нібыта ўшыўся ў сабачую скуру і кожны раз не мінаў сыпануць солі на жывую рану — папікаў разам з іншымі Зазыбу за «блізарукасць».* Чыгрынаў.

*ПУСЦІЦЬ* ● **І (НІ) П`АРЫ З Р`ОТА НЕ П`УСЦІЦЬ.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не сказаць нічога лішняга, захаваць у тайне. **Сін**.: браць рот на замок; прытрымліваць язык; трымаць пры сабе *што*; трымаць язык за зубамі; трымаць язык на замку; трымаць язык на прывязі. *Бабка аж перастае ткаць. Яна доўга крычыць на нас: і каб мы ні пары з рота не пусцілі пра вайну, і каб нікамусенькі не шапнулі.* Каліна.

**НЕ ПУСЦІЦЬ НА ВОЧЫ** *каго. Зак. да* **ПУСКАЦЬ НА ВОЧЫ** *каго.*

**НЕ ПУСЦІЦЬ НА ПАРОГ** *каго. Зак. да* **ПУСКАЦЬ НА ПАРОГ** *каго.*

**ПУСЦІЦЬ БУРБАЛКІ.** *Зак. да* **ПУСКАЦЬ БУРБАЛКІ.**

**ПУСЦІЦЬ ДА БОГА** *каго. Зак. да* **ПУСКАЦЬ ДА БОГА** *каго.*

**ПУСЦІЦЬ <З> АГНЁМ** *што, каго. Зак. да* **ПУСКАЦЬ <З> АГНЁМ** *што, каго.*

**ПУСЦІЦЬ <З> ДЫМАМ** *што, каго.* Гл. пускаць.

**ПУСЦІЦЬ З ДЫМАМ ДА БОГА** *што, каго. Зак. да* **ПУСКАЦЬ З ДЫМАМ ДА БОГА** *што, каго.*

**ПУСЦІЦЬ З ТОРБАЙ <ПА СВЕЦЕ>** *каго. Зак. да* **ПУСКАЦЬ З ТОРБАЙ <ПА СВЕЦЕ>** *каго.*

**ПУСЦІЦЬ КАЗЛА Ў АГАРОД.** *Зак. да* **ПУСКАЦЬ КАЗЛА Ў АГАРОД.**

**ПУСЦІЦЬ КАРЭННЕ.** *Зак. да* **ПУСКАЦЬ КАРЭННЕ.**

**ПУСЦІЦЬ КУЛЮ Ў ЛОБ** *каму. Зак. да* **ПУСКАЦЬ КУЛЮ Ў ЛОБ** *каму.*

**ПУСЦІЦЬ НА ВЕЦЕР** *грошы* і пад. *Зак. да* **ПУСКАЦЬ НА ВЕЦЕР** *грошы* і пад.

**ПУСЦІЦЬ НА СВЕТ.** *Зак. да* **ПУСКАЦЬ НА СВЕТ.**

**ПУСЦІЦЬ НА ТОЙ СВЕТ** *каго. Зак. да* **ПУСКАЦЬ НА ТОЙ СВЕТ** *каго.*

**ПУСЦІЦЬ ПАД АДХОН** *што. Зак. да* **ПУСКАЦЬ ПАД АДХОН** *што.*

**ПУСЦІЦЬ ПАД НОЖ** *каго. Зак. да* **ПУСКАЦЬ ПАД НОЖ** *каго.*

**ПУСЦІЦЬ ПА РУКАХ** *што. Зак. да* **ПУСКАЦЬ ПА РУКАХ** *што.*

**ПУСЦІЦЬ ПЕЎНЯ.** *зак. да* **ПУСКАЦЬ ПЕЎНЯ.**

**ПУСЦІЦЬ ПРОБНЫ ШАР.** *Зак. да* **ПУСКАЦЬ ПРОБНЫ ШАР.**

**ПУСЦІЦЬ ПЫЛ У ВОЧЫ** *каму. Зак. да* **ПУСКАЦЬ ПЫЛ У ВОЧЫ** *каму.*

**ПУСЦІЦЬ САБЕ КУЛЮ Ў ЛОБ.** *Зак. да* **ПУСКАЦЬ САБЕ КУЛЮ Ў ЛОБ.**

**ПУСЦІЦЬ СВЕЧКАЙ ДА БОГА** *што, каго. Зак. да* **ПУСКАЦЬ СВЕЧКАЙ ДА БОГА** *што, каго.*

**ПУСЦІЦЬ СЛОВЫ НА ВЕЦЕР.** *Зак. да* **ПУСКАЦЬ СЛОВЫ НА ВЕЦЕР.**

**ПУСЦІЦЬ СЛЯЗУ.** *Зак. да* **ПУСКАЦЬ СЛЯЗУ.**

**ПУСЦІЦЬ У ДЗЕЛА** *што. Зак. да* **ПУСКАЦЬ У ДЗЕЛА** *што.*

**ПУСЦІЦЬ У ПАВЕТРА** *што. Зак. да* **ПУСКАЦЬ У ПАВЕТРА** *што.*

**ПУСЦІЦЬ У РАСХОД** *каго. Зак. да* **ПУСКАЦЬ У РАСХОД** *каго.*

**ПУСЦІЦЬ У ТРУБУ** *што, каго. Зак. да* **ПУСКАЦЬ У ТРУБУ** *што.*

**ПУСЦІЦЬ У ХОД** *што. Зак. да* **ПУСКАЦЬ У ХОД** *што.*

**ПУСЦІЦЬ У ЦАРСТВА НЯБЕСНАЕ** *каго. Зак. да* **ПУСКАЦЬ У ЦАРСТВА НЯБЕСНАЕ** *каго.*

**ПУСЦІЦЬ <ЧЫРВОНАГА> ПЕЎНЯ** *<каму, куды, дзе>. Зак. да* **ПУСКАЦЬ <ЧЫРВОНАГА> ПЕЎНЯ** *<каму, куды, дзе>.*

*ПУХ* • **<Т`ОЛЬКІ, АЖ> П`УХ (П`ЕР'Е) ЛЯЦ`ІЦЬ (ЛЯЦ`ЕЛА, ПАЛЯЦ`ІЦЬ, ПАЛЯЦ`ЕЛА)** *ад каго, з каго. У безас. ужыв. Разм. Іран.* Каму-н. вельмі моцна пападае. *А я чуў, што ў Кітаі.. рэвалюцыянеры бяруць верх і б'юць генералаў — аж пух ляціць.* Мележ. «*Калі з*

*Людмілаю захоча ісці ў партызаны і гэты [Шпак], я павяду ў лес абодвух, — думаў Валодзя. —Там, у лесе, разбяруцца. З гэтага Шпака толькі пер’е паляціць».* Арабей. *[Харунжы] быў, нягледзячы на ўсе свае Адысеі, такі гарачы, што ў спрэчках з Андрэем ад абодвух ляцела пер’е.* Караткевіч. *Я толькі пальцам кіўну, дык з цябе пер’е паляціць!* Чарнышэвіч.

**У П`УХ <І ПР`АХ>**. *Акал. Разм.* Ушчэнт, поўнасцю, канчаткова (разбіць, разнесці, рассеяць і пад.). **Сін**.: у дым (у 2 знач.). *У пух і прах яго рассей, не шкадуючы касцей, каб не ўбачыў болей сонца гэты злодзей і забойца.* Якімовіч. *Раскрытыкаваў я оперу ў пух і прах не за тое, што яна была кепска, бездапаможна пастаўлена.* Вітка. *А ведаеце, Валянціна Антонаўна, ваш грозны муж учора раскалашмаціў мяне ў пух і прах. Мы цэлы вечар гулялі ў більярд.* Лeвановіч. *Распетрылі ў пух, каго пабілі, каго арыштавалі, адзін Маслак, здаецца, і выкруціўся.* Мележ. *«Унук разнясе ў пух, калі адзін у канторы, — падумаў Андрэй. —Добра, што ён адзін. Ніхто не будзе чуць...»* Пташнікаў. *Па сяле, як па правадах, пабегла доўгачаканая вестка: «Партызаны разнеслі немцаў у пух. Усё добра. Атрад вяртаецца назад».* Кудравец.

*ПУХАМ* ● **ЗЯМЛЯ ПУХАМ** *каму*. Гл. зямля.

*ПУХІРЫ* ● **ПУСКАЦЬ ПУХІРЫ.** Гл. пускаць.

*ПУХНЕ* ● **ГАЛАВА ПУХНЕ** *ў каго <ад чаго>*. Гл. галава.

*ПУХНУЦЬ* ● **ВУШЫ ПУХНУЦЬ** *у каго*. Гл. вушы.

*ПУХУ* ● **НІ П`УХУ НІ ПЯР`А.** *Выкл. Разм.* Шчырае пажаданне поспеху, удачы каму-н. у якой-н. справе. *І калі самалёт адчувальна зыбануўся ўлева, управа, штурман адчыніў дзверы, злёгку ўсміхнуўся пасажырам, весела сказаў: —Ні пуху вам ні пяра!* Лынькоў. *І сцеражыся. Памятай, што цябе чакае твой сын, твае таварышы. Ну, ні пуху ні пяра, таварыш Русаковіч.* Паслядовіч. *Да Лапаціч правядуць цябе хлопцы. А адтуль глядзі сама, Ніна... Ідзі, збірайся... Ні пуху ні пяра.* Мележ. *—Ну, вось і ўсё. Можна адпраўляцца... —Ні пуху табе ні пяра.* Васілевіч.

*ПУЦЁЎКА* ● **ПУЦ`ЁЎКА Ў ЖЫЦЦ`Ё.** *Часцей у адз. Часцей дап. Функц. не зам.* **1**. Падтрымка на пачатку якой-н. дзейнасці. *Яны [грамадскія арганізацыі] павінны зрабіць усё, каб ніводзін выпускнік школы не застаўся без пуцёўкі ў жыццё.* «Настаўн. газ.» *Балабошка прасіў, каб ты даў пуцёўку ў жыццё апавяданню Віктара.* «ЛіМ».

**2**. Веды, навыкі і пад. як магчымасць займацца працоўнай дзейнасцю. *Колькі муляроў [я] выпусціў толькі на «Лаўсанбудзе»?.. Забыліся хутка? І Веры Плоткінай я даў пуцёўку ў жыццё. Трэці разрад мае...* Мыслівец. *Цікава склаўся лёс і тых, хто даваў*

*выхаванцам пуцёўку ў жыццё.* «Настаўн. газ.»

**3**. Права на прыгоднасць да выкарыстання. *Вылепіўшы і адштукаваўшы фігуры і пешкі, Іван Сарока афарбоўваў іх у адпаведныя колеры, і тады ўжо выраб атрымліваў пуцёўку ў жыццё.* Колас. *Калі такое [дыялектнае] слова дасць новую афарбоўку, новае сэнсавае адценне, дык яму можна даць пуцёўку ў жыццё.* Крапіва.

*ПУЦІ* ● **ЗВОДЗІЦЬ З ПУЦІ** *каго.* Гл. зводзіць.

*ПУЦЯВОДНАЯ* ● **ПУЦЯВОДНАЯ ЗОРКА.** Гл. зорка.

**ПУЦЯВОДНАЯ НІЦЬ** *<для каго, для чаго, у чым>.* Гл. ніць.

*ПУШАЧНЫ* ● **НА ПУШАЧНЫ СТРЭЛ.** Гл. стрэл.

*ПУШКУ* ● **БРАЦЬ НА ПУШКУ** *каго.* Гл. браць.

**ЗАЛІВАЦЬ ПУШКУ** *каму.* Гл. заліваць.

**РЫЛЬЦА Ў ПУШКУ** *ў каго.* Гл. рыльца.

*ПУШЧАЦЦА* ● **ПУШЧАЦЦА Ў ХОД.** Гл. пускацца.

*ПУШЧАЦЬ* ● **ПУШЧАЦЬ З ТОРБАЙ <ПА СВЕЦЕ>** *каго.* Гл. пускаць.

*ПУШЧЫ* ● **НІ З П`УШЧЫ НІ З П`ОЛЯ** *гаварыць, спяваць* і пад. *Акал. Разм. Неадабр.* Зусім недарэчна, неўпапад. **Сін**.: ні зіму ні лета; ні к сяду ні к гораду (у 1 знач.); ні ў пяць ні ў дзесяць. *Я, не ў змозе стрымацца, сказаў: —Ты ведаеш, што такое па-старагебрайску «Фінеес»? Гэта абазначае «медны рот». Вось гэта якраз ты. Крычыш ні з пушчы ні з поля, дурань маляваны.* Караткевіч. *За сцэнай нехта завёў [песню] ні з пушчы ні з поля.* «Полымя». *Сабіна выбегла на двор. І там ужо, здавалася б, зусім ні з пушчы ні з поля паліліся слёзы.* «Маладосць».

*ПХАНАЯ* ● *Каўбаса* **П`АЛЬЦАМ ПХ`АНАЯ**. *Азн. Разм. Адабр.* Зробленая, прыгатаваная дома, з прыправамі, не купленая. *Што ж гэта за каляды, даруй божа, без свежай, пальцам пханай кілбаскі?.. Не, як сабе хочацe, а калі няма на стале падсмажанай, з пахам часнаку, кропу, каляндры, дамашняй кілбасы – тады і свята не свята.* Сяргей. *[Той] і ў Маскве фальшывак бурбалкі пускаў, чакаў свой «зорны час», а прыпякло, то ўцёк да бульбачкі і пханых пальцамі каўбас.* Законнікаў. *Усе прагнулі свежанінкі, крывянкі... Каўбаскі пальцам пханай...* Астравец. *Надта ж даспадобы была яму каўбаска свойская, як кажуць, пальцам пханая.* Я.Галубовіч. *Увішная, нястрымная і шчодрая цёця Уладзя кожнага ў тыя галодныя гады частавала вяндлінаю, каўбасамі (пальцам пханымі), усімі прысмакамі вясковай кулінарыі.* Грахоўскі.

*ПШАНІЦУ* ● **ЯК ПШАНІЦУ ПРАДАЎШЫ.** Гл. прадаўшы.

*ПШЫК* ● **З'ЕХАЦЬ НА ПШЫК.** Гл. з'ехаць.

**СЫХОДЗІЦЬ НА ПШЫК.** Гл. сыходзіць.

*ПЫЛ* • **АЖ (АЖН`О, Т`ОЛЬКІ) П`ЫЛ КУР`ЫЦЬ (КУР`ЭЎ, ЗАКУР`ЫЦЬ, ЗАКУР`ЭЎ).** *Разм. Часцей іран. Акал. і ў знач. дадан. ск.* Лепей, мацней, хутчэй быць не можа. **Сін**.: аж гай шуміць. *Няма гарманіста, трасца яго галаве. От паскакалі б. Аж пыл курэў бы,* Мурашка. *[Мікола:] Можа, машыны і выратуем. Акупанты бягуць, аж пыл курыць.* Міровіч. *Паны чуюць сваю пагібель. Чырвоная Армія патурыць іх так, што ажно пыл закурыць!* Баранавых.

**ПУСКАЦЬ ПЫЛ У ВОЧЫ** *каму.* Гл. пускаць.

**П`ЫЛ ПУСК`АЕЦЦА Ў В`ОЧЫ** *каму. Ужыв. як частка скл. ск. ці як самастойны ск. Разм. Неадабр.* Робіцца падман каго-н. з мэтай стварыць пэўнае ўражанне. *Выбаршчыкі ўспомнілі і тое, як пускаўся пыл у вочы, як цягалі прадукты з крамы ў краму па шляху высокага начальства ў час наведвання горада і вобласці Лігачовым...* Законнікаў.

**П`ЫЛ (ТУМ`АН) У В`ОЧЫ.** *Мн. не ўжыв. Часцей у знач. вык. Разм.* Часцей ужыв. пры дзейн.-займ. *гэта.* Падман з мэтай стварыць няправільнае ўражанне. *Дык чаму ж яна [жонка] са мной так абышлася? Адкуль гэта ў яе? А клятвы?.. А прызнанні?.. Няўжо гэта была гульня ў каханне?.. Усё гэта, мусіць, быў пыл у вочы?* Ставер. *Дарма ўсякія.. [запэўненні] у перамогу на франтах, у «супрацоўніцтве» ўсіх станаў грамадства, у руплівую клопатнасць пра дабрабыт жыхарства сталіцы. Усё гэта — пустая балбатня, туман у вочы.* Гартны.

*ПЫЛЬНА* • **І З МУКОЙ І НЕ ПЫЛЬНА.** Гл. мукой.

*ПЫЛЬНЫМ* • **ЯК ПЫЛЬНЫМ МЯШКОМ УДАРАНЫ.** Гл. ударany.

*ПЫТАЙСЯ* • **І НЕ ПЫТ`АЙСЯ (НЕ ПЫТ`АЙЦЕ).** *Выкл. Разм.* Ужыв. як адмоўны адказ на пытанне аб стане чаго-н. Так кепска, што лепш не гаварыць пра гэта. *—Ну, дзядзька, як на смак, прызнайся? — Паскудства, брат, і не пытайся!* Колас. *—Ну, а ў вас як, у горадзе? — У нас — і не пытайце, — уздыхнула Людміла. —Па ўсім горадзе шыбеніцы. Немцы вешаюць нашых людзей. Глядзяць на ўсіх нас, як на скаціну.* Арабей. *—Ну як жа, кумка, маецца? — кума ў кумы пытаецца. —І не пытайся лепш, кума: цяпер жа, ведаеш сама, што дзень пражыў, то й дзякуй богу.* Крапіва.

*ПЫТАННЕ* • **ПЫТ`АННЕ ЖЫЦЦ`Я І СМ`ЕРЦІ.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Самае важнае, самае істотнае. *Пытанні жыцця і смерці.. паўставалі перад ім [Кліменкам] на ўвесь рост, засланялі ўсё астатняе...* Дамашэвіч.

**СТАВІЦЬ ПЫТАННЕ РУБАМ.** Гл. ставіць.

**ШТ`О ЗА ПЫТ`АННЕ!** *Выкл. Разм.* Вокліч здзіўлення або сцвярджэння пры непатрэбным ці недарэчным пытанні. *—Вы не*

*возьмеце мяне з сабой? —Што за пытанне? — ледзь не крыкнуў я. —У кабіне паедзеце.* Чарнышэвіч. *—Элсі, скажы шчыра, ты моцна любіш мяне? —Што за пытанне? — здзівілася яна.* Гамолка. *—Ты мне наогул сёння трэба. Дапаможаш хату перавезці? —Што за пытанне!* Гаўрылкін.

*ПЫТЛЮ* • **ДАВАЦЬ ПЫТЛЮ** *каму.* Гл. даваць.

*ПЫХУ* • **СКІДАЦЬ ПЫХУ З СЭРЦА.** Гл. скідаць.

*ПЭЦКАЦЬ* • **П`ЭЦКАЦЬ (БР`УДЗІЦЬ, ГН`ЮСІЦЬ) Р`УКІ** *аб каго, аб што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Звязвацца з кім-н., ублытвацца ў што-н. нізкае, непрыстойнае. *Канечне, зарабіць знайсці можна было б, але Шашура рашыў трымаць годнасць: не пэцкаць рукі, не рабіць на акупантаў.* Мележ. *Ніколі, ні ў які час я не стаў бы пэцкаць рукі аб вас, Дымар. Брыдка.* Шамякін. *Што?.. Маўчы і дзякуй, пане мой. Мне адно не хочацца брудзіць рук. Я ўсё ведаю!..* Карпюк. *Адступіся, Салівон.., не хочацца рук гнюсіць аб такую поскудзь.* Мурашка. *[Ціток:] У мяне ў судах людзі свае ёсць. Маглі б памагчы, каб руку памазаў. Даў бы сваіх [грошай], дык жа за пяцёрку ці дзесятку не захочуць рук гнюсіць.* Лобан.

**П`ЭЦКАЦЬ ПАП`ЕРУ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пісаць бяздарна, няўмела. *Сто разоў [я] учытваўся ў радкі... Нават, для зручнасці, пераклаў усё гэта на сваю мову, дарма што з юнацтва не пэцкаў рыфмамі паперу.* Караткевіч.

*ПЯДЗЕЙ* • **СЯМ`І П`ЯДЗЯЎ У ЛБ`Е (Л`ОБЕ).** *Вык. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, пераважна з дзеясл. *быць* і злучнікам *хоць*. Вельмі разумны, здольны, здатны. **Сін.**: з галавой (у 1 знач.); з царом у галаве (у 1 знач.); у цемя не біты. **Ант.**: без галавы; без клёпкі ў галаве; з прыветам. *Як ні дзіўна, сярэдневяковае праваслаўе страшэнна абыякавае да творцы, да асобы, якая на яго працавала, да дойліда, майстра фрэскі і іконы, разьбяра. І так паўсюль. Трэба быць сямі пядзяў у лбе, каб заслужыць на ўпамінанне.* Караткевіч. *Як многа ўсё-такі азначае жыццёвы вопыт. Будзь ты, як кажуць, хоць сямі пядзяў у лбе, а не май жыццёвага вопыту – грош цана тым пядзям.* Праскураў. *Ёсць скаргі.., усе наконт бясплатных кватэр. Цяжка змірыцца, што гэта ўчарашні дзень, і, будзь Лакомы ці Лях хоць сямі пядзяў у лобе, ужо нічога не зменіцца.* Шырко.

*ПЯДЗІ* • **НІ П`ЯДЗІ** <u>*не аддаць, не ўступіць.*</u> *Акал. Разм.* Нікольκі, нават самай невялікай часткі. Звычайна пра зямлю. *Мы свае зямлі ні пядзі не аддадзім. Так мне наказвалі старыя, а я вам.* Гурскі.

*ПЯДЗЯЎ* • **СЯМІ ПЯДЗЯЎ У ЛБЕ.** Гл. сямі.

*ПЯЛЁНАК* • **ВЫРАСТАЦЬ З ПЯЛЁНАК.** Гл. вырастаць.

**З ПЯЛ`ЁНАК.** *Акал. Разм. З* ранняга дзяцінства, з самага

маленства. **Сін**.: ад калыскі; з малаком маці; з матчыным малаком. *Вось вам і мараль, тая найвялікшая ісціна, якую неабходна ведаць ужо змалку, з пялёнак: хто не працуе, той і не есць.* Вітка. *Я ж ведаю Васіля Андрэевіча, як кажуць, з пялёнак.* Шашкоў. *Дзеці інтэлігентных бацькоў прывучаліся да другога жыцця, яшчэ з пялёнак яны проста такі ўбіралі ў сябе гэтае жыццё...* Гігевіч.

*П'ЯНАЙ* ● **ПА П'ЯНАЙ ЛАВАЧЦЫ.** Гл. лавачцы.

*П'ЯНУЮ* ● **ПАД П'ЯНУЮ РУКУ.** Гл. руку.

*П'ЯНЫ* ● Прыстаць **ЯК П'`ЯНЫ ДА ПЛ`ОТА.** *Акал. Праст. Неадабр.* Неадчэпна, дакучліва. **Сін**.: з нажом да горла; з кароткімі гужкамі; як сляпы да плота; як смала. *[Паўліна:] Затое ў іх бык — мільянер. [Пытляваны:] Прыстала ты да гэтага быка як п'яны да плота.* Крапіва. *[Максім:] Ты чаму на сход не ідзеш? Цябе што — на шворцы цягнуць, ці ты чакаеш спецыяльных паслоў?.. [Лявон:] Вось прыстаў як п'яны да плота. Прыйду, чакай, а як жа...* Макаёнак. *Ну, што ты прыстаў як п'яны да плота! Знойдзецца табе работа! Куды ты спяшаешся?* Пянкрат.

*П'ЯНЫМ* ● **ГАВАРЫ З П'ЯНЫМ ПАЦЕРЫ!** Гл. гавары.

*П'ЯНЫХ* ● **З П'ЯНЫХ ВАЧЭЙ.** Гл. вачэй.

*ПЯНЬКУ* ● **ЯК ПЯНЬКУ ПРАДАЎШЫ.** Гл. прадаўшы.

*ПЯРА* ● **АДНЫМ РОСЧЫРКАМ ПЯРА.** Гл. росчыркам.

**ВЫХАД З-ПАД ПЯРА.** Гл. выхад.

**ВЫХОДЗІЦЬ З-ПАД ПЯРА** *каго, чыйго.* Гл. выходзіць.

**НІ ПУХУ НІ ПЯРА.** Гл. пуху.

**ПРОБА ПЯРА.** Гл. проба.

**РАЗБОЙНІКІ ПЯРА.** Гл. разбойнікі.

*ПЯРО* ● **Б`ОЙКАЕ ПЯР`О** *ў каго. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Хто-н. з лёгкасцю піша, выкладае пісьмова свае думкі. **Сін**.: вострае пяро *ў каго. Я дам вам разумную параду: напішыце ў часопіс. Называецца «Родная прырода». У вас бойкае пяро і паасобныя думкі ёсць.* Навуменка.

**БРАЦЦА ЗА ПЯРО.** Гл. брацца.

**В`ОСТРАЕ ПЯР`О** *ў каго. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Хто-н. з лёгкасцю і дасціпна піша, выкладае свае думкі. **Сін**.: бойкае пяро *ў каго. Вострае ў вас пяро. Надоечы ў «Звяздзе» я чытаў ваш памфлет...* Гурскі. *Газету вашу чытаю, а матэрыяльчыкі за вашым подпісам не прапушчу ніколі... Пяро ў вас вострае, ой якое вострае!* Хадкевіч.

**УСТАЎЛЯЦЬ ПЯРО** *каму.* Гл. устаўляць.

*ПЯРОЙДЗЕНЫ* ● **РУБІКОН ПЯРОЙДЗЕНЫ.** Гл. рубікон.

*ПЯРОМ* ● **ВАЛОДАННЕ ПЯРОМ.** Гл. валоданне.

**ВАЛОДАЦЬ ПЯРОМ.** Гл. валодаць.

**ПАД ПЯР`ОМ** *каго, чыім. Акал. Функц. не зам.* Будучы напісаным у выніку творчай працы каго-н. *Сёння ўночы.. думаў аб Антаніне Лукашэўскай і двух яе сынах. Усё гэта можа пад маім пяром ажыць і жыць доўгім поўным жыццём.* Чорны. *Вы пачынаеце чытаць паэму і адразу заўважаеце, што ўсё пад пяром паэта набывае велічны сэнс.* Шкраба.

*ПЯРУН* ● **ПЯР`УН ЯГ`О (Я`Е, `ІХ) В`ЕДАЕ; ПЕРУН`Ы ЯГ`О (Я`Е, `ІХ) В`ЕДАЮЦЬ.** *Часцей у знач. галоўн. ск. Прост. Неадабр.* Невядома. **Сін**.: агонь яго ведае; алах яго ведае; бог яго ведае; вятры яго ведаюць; кадук яго ведае; ліха яго ведае; немач яго ведае; нячысцік яго ведае; трасца яго ведае; халера яго ведае; хвароба яго ведае; хрэн яго ведае; хто яго ведае; чамярыца яго ведае; чорт яго ведае. *—І што яны думаюць рабіць з намі? —Пярун іх ведае...* Сіняўскі. *—Нібыта закон такі, што нам палёгка будзе. —Які закон? І калі яго выдадуць? —А пярун яго ведае. Кажуць, гэты закон будзе, як буржуяў не будзе.* Міско. *А што з гэтым безгалоўным прайдзісветам рабіць, перуны яго ведаюць.* Чорны. *—Куды яны паехалі, дзядзька? —Перуны іх ведаюць, Антось Іванавіч.* Чарнышэвіч.

**ЯК ПЯРУН З ЯСНАГА НЕБА.** Гл. гром.

*ПЯРЭДНІ* ● **НА ПЯРЭДНІ ПЛАН.** Гл. план.

**ПЯРЭДНІ КРАЙ** *чаго.* Гл. край.

*ПЯРЭДНІМ* ● **НА ПЯРЭДНІМ ПЛАНЕ.** Гл. плане.

*ПЯСКУ* ● **БУДАВАЦЬ НА ПЯСКУ** *што.* Гл. будаваць.

**ЛЯЖАЦЬ У <СЫРЫМ> ПЯСКУ.** Гл. ляжаць.

*ПЯСОК* ● **ІСЦІ Ў ПЯСОК.** Гл. ісці.

*Чый* **НАСОК ПАГЛЯДАЕ Ў ПЯСОК.** Гл. насок.

**ПЯС`ОК С`ЫПЛЕЦЦА** *з каго. У безас. ужыв. Разм. Пагард.* Хто-н. вельмі стары, слабы. **Сін**.: парахня сыплецца *з каго*; порах сыплецца *з каго. Бач ты, выскаляецца, а з самога ўжо пясок сыплецца.* Лынькоў. *Следам за імі плыў Маркін і нейкі стары. Таксама во — пясок сыплецца, а ўсё туды ж, у турысты лезе...* Гігевіч. *Дык з Рамана пясок даўно сыплецца. Куды яму да Полі.* Калодзежны.

**ХАВАЦЬ ГАЛАВУ Ў ПЯСОК.** Гл. хаваць.

*ПЯСОЦКАГА* ● **ЗАМУЖ ЗА ПАНА ПЯСОЦКАГА** *збірацца.* Гл. замуж.

*ПЯСОЧКАМ* ● **ПРАДЗІРАЦЬ З ПЯСОЧКАМ** *каго.* Гл. прадзіраць.

*ПЯТ* ● **З ГАЛАВЫ ДА ПЯТ.** Гл. галавы.

*ПЯТА* ● **АХІЛ`ЕСАВА ПЯТ`А** *<чыя, каго, у каго>. Мн. не ўжыв. Часцей вык. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. неадуш. прадмета. Найбольш паражальнае месца, слабы бок у каго-н. **Сін**.: вузкае месца *<дзе, у каго>*; <самае> балючае месца *чыё, у каго*; слабае месца *чыё, каго,*

*чаго, у каго, у чым* (у 2 знач.); слабая струнка *чыя, каго. Я не хачу, каб ты знаў... Я хацела б і сама не знаць гэтага, бо гэта маё слабае месца, ахілесава пята...* Зарэцкі. *Левая нага футбаліста была яго ахілесавай пятой.* «Вожык». *Калі б то быў які іншы прадмет, дык, можа, Алесь ужо з першай мінуты і ўбіўся б у належную каляіну. А то хімія — яго «ахілесава пята», самае слабае месца.* Б.Стральцоў.

*ПЯТАГА* ● **З П`ЯТАГА НА ДЗЕС`ЯТАЕ.** *Акал. Разм.* **1**. Прапускаючы падрабязнасці, непаслядоўна, бязладна (расказваць, гаварыць, паведамляць і пад.). **Сін**.: праз пятае ў дзесятае (у 1 знач.); пятае праз дзесятае (у 1 знач.). *[Іван Іванавіч] пачаў расказваць з пятага на дзесятае, а потым, захапіўшыся, падрабязна і з нейкай самому незразумелай замілаванасцю.* Асіпенка. *Не адводзячы вачэй ад трыбуны, ледзь схіліўшыся да маёра, штурмбанфюрэр пачаў з пятага на дзесятае перакладаць маёру.* Мележ.

**2**. Абы-як, нядбала (рабіць што-н.). **Сін**.: абы дзень адбыць; абы дзень да вечара (у 1 знач.); абы з рук; з плеч ды ў печ (у 2 знач.); па канец рук; праз пятае ў дзесятае (у 2 знач.); пусці павалюся (у 2 знач.); спусціўшы рукавы; сяк-так (у 2 знач.); сяк-так накасяк <абы не па-людску>; цапам-лапам; цапу-лапу; цяп ды ляп. **Ант**.: душы паслухаючы; з аганьком; закасаўшы рукавы; не пакладаючы рук. *Цярпець не магу, калі мяне слухаюць з пятага на дзесятае.* Бажко. *Наталля, аглядаючы сталярню, стала распытваць пра яго, Антона: што ён есць, на чым спіць, ці глядзіць за сабой. А Антон усё гэта слухаў і не слухаў, адказваў з пятага на дзесятае.* Ракітны.

**3**. Збольшага, зусім нямнога (чуць, разумець, ведаць і пад.). **Сін**.: пятае праз дзесятае (у 2 знач.). *З пятага на дзесятае Віктар чуў, як штосьці даказвалі хлопцы і не пагаджаўся з імі рэдактар.* Паўлаў. *З пятага на дзесятае я разумеў нямецкую мову.* Сабаленка.

*ПЯТАЕ* ● **ПРАЗ П`ЯТАЕ Ў ДЗЕС`ЯТАЕ.** *Акал. Разм.* **1**. Прапускаючы падрабязнасці, непаслядоўна, бязладна (расказваць, гаварыць, паведамляць і пад.). **Сін**.: з пятага на дзесятае (у 1 знач.); пятае праз дзесятае (у 1 знач.). *Па ўсім відаць было, што гаспадар зямлянкі гаворыць аб Лявоне праз пятае ў дзесятае.* Гурскі.

**2**. Абы-як, нядбайна (рабіць што-н.). **Сін**.: абы дзень адбыць; абы дзень да вечара (у 1 знач.); абы з рук; з плеч ды ў печ (у 2 знач.); з пятага на дзесятае (у 2 знач.); па канец рук; пусці павалюся (у 2 знач.); спусціўшы рукавы; сяк-так (у 2 знач.); сяк-так накасяк <абы не па-людску>; цапам-лапам; цапу-лапу; цяп ды ляп. **Ант**.: душы паслухаючы; з аганьком; закасаўшы рукавы; не пакладаючы рук. *Сумна робіцца Мысліцкаму, і ён праз пятае ў дзесятае слухае, што гаворыць нудна Антось.* Мурашка.

**П`ЯТАЕ ПРАЗ (Ц`ЕРАЗ) ДЗЕС`ЯТАЕ.** *Акал. Разм.* **1**. Прапускаючы падрабязнасці, непаслядоўна, бязладна (расказваць, гаварыць, паведамляць і пад.). **Сін**.: з пятага на дзесятае (у 1 знач.); праз пятае ў дзесятае (у 1 знач.). *Бачыце, зусім загаварыла вас. І то пятае цераз дзесятае, а ўсяго і за тры дні не раскажаш.* Грахоўскі.

**2**. Збольшага, зусім нямнога (чуць, разумець, ведаць і пад.). **Сін**.: з пятага на дзесятае (у 3 знач.). *Яны, простыя дзеці вёскі, разумелі з усяго гэтага пятае праз дзесятае.* Бядуля. *Мамойка і сапраўды чуў пятае праз дзесятае, міжволі ўлоўліваў толькі паасобныя словы.* Гіль. *Чытаў [я], а разумеў пятае цераз дзесятае, асабліва шмат недаступнага было ў паэме «Чырвона-чорная жалоба».* Грахоўскі.

**ЯК ПЯТАЕ КОЛА Ў ВОЗЕ.** Гл. кола.

*ПЯТАХ* ● **ПА ПЯТ`АХ** *чыіх, каго, за кім. Акал. Разм.* Не адстаючы, неадступна (ісці, хадзіць, гнацца і пад.). *А праўцом на іх нёсся хлапчук, уцякаючы ад бацькі, які гнаўся за ім па пятах з пугаю.* Гартны. *А вунь шпіён... Баіцца, каб не згубіць з вачэй чалавека ў паліто... Ён, відавочна, ідзе па яго пятах...* Баранавых. *—Некалі я маліўся на цябе, — памаўчаўшы, прамовіў Арцём. —І ты гэта бачыла. Але ў цябе ўжо быў прынц... студэнт, які хадзіў за табой па пятах.* Ракітны.

*ПЯТАЯ* ● **ПЯТАЯ КАЛОНА.** Гл. калона.

**ЯК САБАКУ ПЯТАЯ НАГА.** Гл. нага.

*ПЯТКАХ* ● **ДУША Ў ПЯТКАХ** *у каго, чыя.* Гл. душа.

*ПЯТКІ* ● **<АЖ, Т`ОЛЬКІ> П`ЯТКІ (П`ЯТЫ) БЛІШЧ`АЦЬ (БЛІШЧ`АЛІ, ЗАБЛІШЧ`АЛІ)** *у каго, чые. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. вельмі хутка ўцякае. *Пачакай трохі, Аўгінька, пацярпі: пакоцяцца палякі адгэтуль, толькі.. будуць.. пяты іх блішчаць.* Колас. *Бег што сілы, без аглядкі, аж блішчалі ў хлопца пяткі.* А.Александровіч. *Папужаліся паны, заблітчэлі пяткі, паскідалі жупаны, пагублялі «гаткі».* Крапіва.

**ДУША Ў ПЯТКІ <СХАВАЛАСЯ>** *у каго.* Гл. душа.

**ЛІЗАЦЬ ПЯТКІ** *каму.* Гл. лізаць.

**НАСТУПАЦЬ НА ПЯТКІ** *каму.* Гл. наступаць.

**ПАДМАЗВАЦЬ ПЯТКІ.** Гл. падмазваць.

**ПАДРАЗАЦЬ ПЯТКІ** *каму.* Гл. падразаць.

**ПАКАЗВАЦЬ ПЯТКІ.** Гл. паказваць.

**У ПЯТКІ КАЛЬНУЛА** *каму, каго.* Гл. кальнула.

*ПЯТЛІ* ● **ШУКАЦЬ САБЕ ПЯТЛІ <НА ШЫЮ>.** Гл. шукаць.

*ПЯТЛЮ* ● **ЛЕЗЦІ Ў ПЯТЛЮ.** Гл. лезці.

**ХОЦЬ ГАЛАВОЙ У ПЯТЛЮ.** Гл. галавой.

**ХОЦЬ У ПЯТЛЮ ЛЕЗЬ.** Гл. лезь.

*ПЯТНІЦ* ● **С`ЕМ П`ЯТНІЦ НА Т`ЫДНІ** *ў каго. У безас. ужыв. Разм.*

*Жарт.-іран.* Хто-н. часта і лёгка мяняе свае намеры, рашэнні, настрой і пад. *—Пакажыце, як вам цяжка? —А цяпер мне зусім лёгка!.. —У вас сем пятніц на тыдні! — сказала Ядвіся і папрасіла яго бліжэй да лямпы.* Колас. *—Можа, Іванюкі і спалілі. Бондар спаліў. — Ну, братка, нешта ў вас сем пятніц на тыдні. То мужыкі за поле спалілі, то бондар.* Хомчанка. *Калі ў спецыяліста лінія пастаянная, дык і людзі кіраўніку больш давяраюць, а калі ў таго сем пятніц на тыдні, людзі не ведаюць, што ад іх патрабуецца.* «Звязда».

*ПЯТНІЦУ* ● *Жаніць, аддаваць замуж* **Х`ОЦЬ У П`ЯТНІЦУ.** *Акал. Разм.* У любы момант у самы блізкі час. *[Даміцэля:] Дачку аддавай хоць у пятніцу замуж, а тут — на табе! —гэты чорт.* Купала. *Хлапец мае семнаццаць гадоў (жаніць хоць у пятніцу можна), ды з падшывальцамі гешэфт вядзе. Куды гэта падобна!* Калюга.

**ЯК СЕРАДА НА ПЯТНІЦУ.** Гл. серада.

*ПЯТНІЦЫ* ● **СЕРАДА З-ПАД ПЯТНІЦЫ** *відаць* і пад. Гл. серада.

*ПЯТОЙ* ● **ПАД ПЯТ`ОЙ** *у каго, каго, чаго. Вык. і акал. Разм.* **1**. *Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У поўным падпарадкаванні. Звычайна пра залежнасць мужа ад жонкі. **Сін**.: пад абцасам *чыім, каго, у каго*; пад ботам *чыім, каго, у каго* (у 1 знач.); пад каўпаком *каго, у каго*; у кіпцюрах *чыіх, каго*; у кулаку; у лапах *каго, чыіх*; у руках *чыіх, каго, у каго* (у 1 знач.). *Мусіць, ён у Каці пад пятой. Цюхцяй быў, цюхцяём застаўся.* Асіпенка. *У Казанскага жонка артыстка, і ўсе ў студыі гаварылі, што ён у яе пад пятой.* Гаўрылкін. *—Папярэджу Ірыну, што затрымаюся. —Ты што — у жонкі пад пятой?.. —шчыра здзівіўся Валера.* Рубанаў.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, зборн. ці абстр. прадмета. Пад чыёй-н. уладай, пад прыгнётам. **Сін**.: пад ботам *чыім, каго, у каго* (у 2 знач.). *Ці ж на тое мне пра волю пела над калыскай, каб марнела наша доля пад пятой фашысцкай?* Крапіва. *[Каляда:] Ён і нажывае на мужыцкім мазалі рублі-капейкі Уся вёска ў яго пад пятой.* Васілеўскі. *Нейкі бязвусы лейтэнанцік.. такі і сказаў: «Зараз для савецкай дзяржавы школы — перадавая лінія атак. А тым больш школа на тэрыторыі, што была пад пятой фашызму.* Кандрусевіч.

*ПЯТРА* ● **КІВАЦЬ НА ПЯТРА.** Гл. ківаць.

*ПЯТУ* ● **КАТУ ПА ПЯТУ.** Гл. кату.

*ПЯТЫ* ● **К`ОРАТКІ П`ЯТЫ (ЗАК`ОРАТКІ П`ЯТЫ, П`ЯТЫ КАР`ОТКІЯ)** *чые, ў каго. Адз. не ўжыв. У безас. ужыв. Разм.* Няма сілы, магчымасці зрабіць што-н. **Сін**.: аслаблі гайкі *ў каго* (у 2 знач.); жыдкі лыткі *ў каго*; кароткі завароткі *ў каго, чые*; кішка тонкая *ў каго* (у 1 знач.); не адтуль растуць рукі *чые, у каго*; пораху не хапае *ў каго*; рукі кароткія *ў каго. [Каржакевіч:] А то зараз таварышы ўсіх падраўнуюць.*

*[Верамейчык:] Каб жа яны падраўноўвалі ды ўгору, з багацейшымі, дык я ім бы яшчэ падзякаваў, а то ж яны ўніз раўнуюць. «Вунь ты чаго захацеў! Кораткі пяты», — засмяяўшыся толькі вачыма, падумаў Каржакевіч, а ўслух сказаў: —Вось я ж тое і кажу.* Крапіва. *[Янка:] З гэтага нічога не выйдзе. Бо абхапіць гэтае «далей» закораткі вашы пяты* (Я.Купала). *– Ты ў Даўгялы быў? – Пяты ў яго кароткія, у твайго Даўгялы, а надзімаецца... Бюракрат пракляты!* Караткевіч. *Заваблівая жонка. Забяжыць наперад, як кошка, і пасмейваецца з гэтакім здзекам ды яхіднасцю. Маўляў, што, даражэнькі? Кароткія пяты*? Палітыка.

**ЛІЗАЦЬ ПЯТЫ** *каму.* Гл. лізаць.

**НАСТУПАЦЬ НА ПЯТЫ** *каму.* Гл. наступаць.

**ПАДМАЗВАЦЬ ПЯТЫ.** Гл. падмазваць.

**ПАДРАЗАЦЬ ПЯТЫ** *каму.* Гл. падразаць.

**ПЯТЫ АКТ** <*чаго*>. Гл. акт.

**ПЯТЫ СМАЛІЦЬ.** Гл. смаліць.

**ПЯТЫ БЛІШЧАЦЬ** *у каго.* Гл. пяткі.

**У ПЯТЫ КАЛЬНУЛА** *каму, каго.* Гл. кальнула.

*ПЯЦІ* ● **БЕЗ ПЯЦІ МІНУТ.** Гл. мінут.

*ПЯЦЬ* ● **ЗА П`ЯЦЬ П`АЛЬЦАЎ** <u>не купіш, не дастанеш.</u> *Акал. Разм.* Без грошай, пры безграшоўі. **Сін**.: за кукіш. *Падумай, паночку, ды зрабі ласку... Нідзе не ўзяць зямлі мужыку, за пяць пальцаў не купіш, — а дзесяцінка, глядзіце, пад сто рублёў падбіраецца.* Мурашка. *—Даць бы нашай зямлі пудоў з тысячу азотных, калійных, суперфасфатных ды іншых угнаенняў... —Ого, каб гэтак... Толькі ж станцыя вельмі далёка: як жа прывязеш? І за пяць пальцаў яго не купіш...* Рылько.

**НА П`ЯЦЬ З ПЛ`ЮСАМ.** *Акал. Разм. Жарт.* Вельмі добра, цудоўна (зрабіць што-н., жыць і пад.). **Сін**.: будзь-будзь (у 1 знач.); будзь здароў (у 1 знач.); дай бог (у 1 знач.); дай бог кожнаму (у 2 знач.); дзякуй богу (у 1 знач.); за маё-маё (у 1 знач.); за маліну (у 2 знач.); з бляскам (у 1 знач.); кум каралю <і сват міністру> (у 3 знач.); люба-дорага; на дзіва (у 2 знач.); на поўнае вока; на славу (у 1 знач.); на ўсе сто (у 2 знач.); на яць (у 1 знач.); разлюлі-маліна (у 2 знач.); слава богу (у 1 знач.); хвала богу (у 1 знач.); хоць куды (у 2 знач.); што трэба (у 1 знач.); як не трэба лепш. *Я пастараюся ўжо адштукаваць вам кватэрку на пяць з плюсам.* Колас. *—Як пажывае таварыш Цывілька? — На пяць з плюсам, — голас у Сцяпана акрэп.* Дайнека.

**НІ Ў П`ЯЦЬ НІ Ў ДЗ`ЕСЯЦЬ.** *Акал. Разм. Неадабр. Часцей ужыв. у спалучэнні з дзеясл. маўлення.* Зусім недарэчна, неўпапад, не тое, што трэба. **Сін**.: ні зіму ні лета; ні з пушчы ні з поля; ні к сялу ні к гораду (у 1 знач.). *Гэ, вось ты ліха, пане-дзею! Цяпер папаўся, дабрадзею: вось*

*так і цапне, так і цапне, калі ні ў пяць ні ў дзесяць ляпне?* Колас. *Ну, браце, ты ўжо гаворыш ні ў пяць ні ў дзесяць.* Адамчык.

**ЯК СВАЕ ПЯЦЬ ПАЛЬЦАЎ.** Гл. пальцаў.

*ПЯЧАТКА* ● **КАІНАВА ПЯЧАТКА.** Гл. пячаць.

*ПЯЧАТКАМІ* ● *Быць, заставацца* і пад. **ЗА СЯМ`Ю ПЯЧ`АТКАМІ.** *Вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. (быць і пад.) недаступным, прыхаваным. **Сін**.: за сямю замкамі (у 3 знач.). *Планы вытворчасці цалкам мірнай, але небяспечнай, можа стацца, для здароўя людзей прадукцыі ўсё яшчэ застаюцца за сямю пячаткамі.* «ЛіМ». *Людзі рабілі лагічны вывад: усё застанецца па-ранейшаму. Па-ранейшаму будуць за сямю пячаткамі працэс налічэння і размеркавання прэмій, кадравая і сацыяльная палітыка.* «Звязда».

*ПЯЧАТКУ* ● **КЛАСЦІ <СВАЮ> ПЯЧАТКУ** *на каго, на што.* Гл. класці.

*ПЯЧАЦЬ* ● **К`АІНАВА ПЯЧ`АЦЬ (ПЯЧ`АТКА).** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* След злачыннасці. *[Гудовіч:] Каму патрэбна творчасць, на якой ляжыць каінава пячаць?* Крапіва. *Яму, гэтаму начальству, напэўна ж вядома, што ў той час бацька, брат, сястра падвяргаліся арышту за дапамогу паўстанцам, вялося на іх следства. Вось мог і легчы, нібы каінава пячатка, на яго, Францішка Багушэвіча, гэты недавер, і, відаць, назаўсёды.* Хомчанка.

**ЛЯЖ`ЫЦЬ ПЯЧ`АЦЬ (АДБ`ІТАК)** *чаго на чым. У безас. ужыв. Функц. не зам.* На чым-н. прыкметны след, адлюстроўваецца адзнака якіх-н. пачуццяў, уздзеянняў, уплыву і пад. *Мы заўважаем жаночы твар, на якім ляжыць пячаць таго, чым поўніцца ў гэтыя хвіліны душа.* Чорны. *На ўсіх празрыста-васковых тварыках ляжала пячаць бядоты і голаду.* Якімовіч. *Кватэра Садовіча... На ўсіх ляжыць адбітак наладжанага дабрабыту і парадку.* Васілеўскі.

*ПЯЧОНКАХ* ● **СЯДЗЕЦЬ У ПЯЧОНКАХ.** Гл. сядзець.

*ПЯЧОНКІ* ● **АД'ЯДАЦЬ ПЯЧОНКІ** *каму.* Гл. ад'ядаць.

**УЯДАЦЦА Ў ПЯЧОНКІ** *каму.* Гл. уядацца.

*ПЯЧЫ* ● **ПЯЧ`Ы Р`АКАЎ**. *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Чырванець ад сораму. **СПЯЧЫ Р`АКАЎ.** *Зак. Помню толькі: абліўся я гарбатай гарачай, як Марылю ўбачыў, што з баронам сядзела ды так дзіўна глядзела на мяне, небарака... Колькі спёк я там ракаў, каб хацеў, не злічыў бы – ды і вас умарыў бы!..* Гарун. [Федароўскі, № 6756: *пячэ ракі*; параўн. (з тым самым знач.). ва ўкр. м.: *пекти раків*, у польск. м.: *piec raki*].

**ПЯЧ`Ы ЯК БЛІН`Ы** *што. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі хутка і многа ствараць што-н. *Пячом калгасы як бліны...* Крапіва. *Ён.. [цэбрыкі] як бліны пячэ.* Юрчанка.

*ПЯШКОМ* ● **КУДЫ І КАРОЛЬ ПЯШКОМ ХОДЗІЦЬ.** Гл. кароль.

**ПАД СТОЛ ПЯШКОМ ХОДЗІЦЬ.** Гл.ходзіць.

*ПЯЮЦЬ* ● *Фінансы* **ПЯ`ЮЦЬ РАМ`АНСЫ.** *Азн. Разм. Жарт.* У кепскім стане (фінансы, грашовыя справы ў каго-н.). Часцей пра безграшоўе. *Мы адмаўляем тваю тэорыю – «курыца па зярнятку клюе». Не для нас яна. Мы не бабулькі стогадовыя. Тым больш – фінансы пяюць рамансы.* Міська. *Жора заўважыў грошы: «Што, фінансы пяюць рамансы? Нічога, заўтра атрымаю – за сябе і за вашага генія, падкіну...».* Кусянкоў. *– Я паснедаў, – адказаў Рамейка. – Вы давайце без мяне. Я на хвіліну, паглядзець... – Як фінансы? Пяюць рамансы? – спытаўся жартам.* Дамашэвіч.

**САЛАЎІ ПЯЮЦЬ У ЖЫВАЦЕ** *ў каго, у чыім.* Гл.салаўі.

**Р**

*РАБ* ● **Р`АБ Б`ОЖЫ.** *Адз. і мн. Часцей вык.* **1**. *Устар. Функц. не зам.* Мужчына як істота, падуладная богу. **Ант**.: раба божая. *—Дурань! — накінуўся чамусьці поп. —Перш за ўсё ты раб божы... —Ну, гэта ўжо хлусня, усё роўна, што ў дзеда пра туркаў, — набраўся смеласці Міколка. —А мы не рабы божыя, а рабочыя-дэпоўцы...* Лынькоў. *Памянём раба божага Пілiпа... Каб яму на тым свеце лёгка было...* Сачанка.

**2**. *Разм. Жарт.-іран.* Чалавек наогул. *Дык вось, не паспеў я ўвайсці ў Верацёны, як мяне, раба божага, так і аблямзалі. Замест дому я мусіў першую ж ночку начаваць у каменданцкай.* Гартны. *Трусіць бародкай казлінай, выпіўшы, раб божы — дзяк.* Смагаровіч.

*РАБА* ● **РАБ`А Б`ОЖАЯ.** *Устар. Часцей адз. Вык. ці зваротак. Функц. не зам.* Жанчына як істота, падуладная богу. **Ант**.: раб божы. *Што за глупства ты вярзеш, раба божая? Цэханавецкі — магнат, вядомы ўсім у княстве. А ты — хто?* Якімовіч. *– А калі, скажам, і малака нямашака, а дужа ж есці хочацца, і скваркі хочацца, і малака хочацца... – А я тады, раба божая, аблуплю бульбіну, ну ды са словам божым...* Лынькоў.

*РАБІЦЬ* ● **АД НЯМА ЧАГО РАБІЦЬ.** Гл. няма.

**РАБ`ІЦЬ В`ЫГЛЯД.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ствараць пэўнае ўражанне, прытварацца. *Крыху счакаўшы, з'явіліся Лапаткевіч з Гулікам. Яны рабілі выгляд, нібы вельмі шкадуюць, што спазніліся падпісаць пратакол.* Колас. *У нас проста не было грошай, але мы рабілі выгляд, што грэбуем такой умоўнасцю, як білет.* Караткевіч. **ЗРАБІЦЬ ВЫГЛЯД.** *Зак. —Што такое? — зрабіў выгляд, быццам не зразумеў, Іваноўскі, хоць ён выдатна разумеў, што непакоіць старшыню.* Быкаў.

**РАБ\`ІЦЬ ВЯЛ\`ІКІЯ В\`ОЧЫ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выражаць крайняе здзіўленне, недаўменне. **Сін**.: дзіву давацца; не верыць <сваім> вачам; не даваць веры <сваім> вачам; разводзіць рукамі; разяўляць рот (у 3 знач.). *Кожны раз, калі я глытаў шарык, Наташа рабіла вялікія вочы і заклапочана пытала: —Мо зап'еш? Прынесці вады?* Шыловіч. **ЗРАБІЦЬ ВЯЛІКІЯ ВОЧЫ.** *Зак. [Васіль Пятровіч] нахмурыўся і адмоўна заківаў галавою. Але Валя зрабіла вялікія вочы і падалася на кухню.* Карпаў. *—Вы ўжо знаёмыя? — зрабіла вялікія вочы Дануся.* Карпюк. *Каля чарговай вёскі выскачыў на бераг хлапчук, стаў як укапаны, зрабіў вялікія вочы, потым закрычаў, замахаў рукамі.* Пашкоў.

**РАБ\`ІЦЬ ВЯС\`ЁЛУЮ (Д\`ОБРУЮ) М\`ІНУ ПРЫ ДР\`ЭННАЙ ГУЛЬН\`І.** *Незак. Функц. не зам. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Старацца схаваць за знешнім спакоем ці весялосцю сваё незадавальненне, непрыемнасці. *У ворагаў міру цяжкія дні. Мілітарысты ў вялікай паніцы. Такога яшчэ не бывала на іх памяці. «Як жа можна без войнаў, без калатні!» Пры дрэннай гульні робяць добрую міну... Год міру!* Вярцінскі. *Кіраўніцтва пасольства спрабуе бадзёрыцца — трэба ж неяк рабіць добрую міну пры дрэннай гульні.* «Звязда». **ЗРАБІЦЬ ВЯСЁЛУЮ (ДОБРУЮ) МІНУ ПРЫ ДРЭННАЙ ГУЛЬНІ.** *Зак.*

**РАБ\`ІЦЬ З Б\`ЕЛАГА Ч\`ОРНАЕ (Б\`ЕЛАЕ Ч\`ОРНЫМ).** *Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Падаваць што-н. у іншым выглядзе, беспадстаўна перайначваць. **ЗРАБІЦЬ З БЕЛАГА ЧОРНАЕ (БЕЛАЕ ЧОРНЫМ).** *Зак. Мала што выдумаюць бабы. Чаго толькі не зложаць. З белага могуць зрабіць чорнае.* Баранавых. *[У архітэктуры] сам чорт нагу зломіць, гэта галіна, дзе лягчэй за ўсё белае зрабіць чорным і наадварот.* Шамякін. *Наваш тут, у штабе арміі, некаторыя хочуць перакруціць падзеі на свой лад, белае зрабіць чорным.* Алешка.

**РАБ\`ІЦЬ З КАМАР\`А КАН\`Я**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Беспадстаўна перабольшваць што-н., надаваць чаму-н. нязначнаму вялікае значэнне. **Сін**.: згушчаць фарбы (у 1 знач.); рабіць з мухі слана; узводзіць у квадрат. **ЗРАБІЦЬ З КАМАРА КАНЯ.** *Зак. І хто цягнуў мяне за язык? А цяпер людзі з камара зрабілі каня, а бацькам перажывай за «вучанага», але неразумнага сына.* Шырко. [*Федароўскі*, с. 134: з камара зрабілі каня.]

**РАБ\`ІЦЬ З М\`УХІ СЛАН\`А.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Беспадстаўна перабольшваць што-н., надаваць чаму-н. нязначнаму вялікае значэнне. **Сін**.: згушчаць

фарбы (у 1 знач.); рабіць з камара каня; узводзіць у квадрат *што. Дзяржаўная мяжа далёка, за Нёманам, а да яго не адна сотня кіламетраў. Так што ці не зарана ты, дружа, робіш, з мухі слана?..* Савіцкі. *Выкінь з галавы гэтыя думкі. Падазрэнні. Не рабі з мухі слана.* Леванові́ч. **ЗРАБІЦЬ З МУХІ СЛАНА**. *Зак. «Як яна можа спаць? — падумаў пра жонку. —Зрабіла з мухі слана — і спіць сабе хоць бы што».* Левановіч. *Асабліва не выкладай яму ўсё, сачы за сваёй інфармацыяй: усё-такі карэспандэнт... Сам ведаеш, які гэта народ! З мухі слана зрабіць могуць.* Далідовіч.

**РАБ`ІЦЬ ПАГ`ОДУ** *<у чым, дзе>. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, абстр. ці канкр. прадмета. Мець рашаючае значэнне, выконваць самую істотную ролю ў чым-н. **Сін**.: весці рэй; даваць тон *<каму, чаму, у чым>*; іграць першую скрыпку *ў чым*; камандаваць парадам; правіць баль *<дзе, у чым>*; трымаць лейцы <у сваіх руках>. **Ант**.: іграць другую скрыпку *ў чым. У публікацыях сёлетняга года трапляюцца і сярэднія, прахадныя вершы, і не толькі на тэму кахання, а і на другія тэмы. Але не яны робяць пагоду, а сапраўдныя паэтычныя творы.* «ЛіМ». *Ад сучаснага кіраўніка патрабуецца шмат чаго... Так званыя чыстыя спецы ніколі пагоды не рабілі і ніколі рабіць не змогуць.* Блакіт. **ЗРАБІЦЬ ПАГОДУ** *<у чым, дзе>. Зак. Кантора прыслала пяць чалавек, якія, зразумела, пагоды на аб’ектах не зробяць.* «Звязда».

**РАБ`ІЦЬ ПРАПАН`ОВУ** *каму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прасіць каго-н. стаць жонкай. **Сін**.: прапанаваць руку і сэрца *каму*; прасіць рукі *чыёй, каго, у каго.* **ЗРАБІЦЬ ПРАПАНОВУ** *каму. Зак. [Барыс:] Маша вам ужо, напэўна, сказала... Я прасіў яе, каб яна вам сказала. Я яе вельмі кахаю і зрабіў ёй прапанову.* Маўзон. *У хуткім часе Сцяпан зрабіў Маі прапанову, і яны пажаніліся.* Дуброўскі.

*РАБОЕ* ● **АБОЕ РАБОЕ.** Гл. абое.

*РАБОТУ* ● **БРАЦЬ У РАБОТУ** *каго.* Гл. браць.

*РАГАХ* ● **У ЧОРТА НА РАГАХ.** Гл. чорта.

*РАД* ● **Р`АД НЕ Р`АД.** *Акал. Разм.* Насуперак жаданню, незалежна ад жадання, старання каго-н. **Сін**.: воленс-ноленс; воляй-няволяй; хоцькі-няхоцькі; хочаш не хочаш. *[Пастушок:] Ой ты, доля пустасейка! Рад не рад; далі кут, і той не пэўны — да каляд.* Купала. *І выходзіць — рад не рад — папраўляйся, Якаў, брат!* Крапіва. *Ён [Ягор] за тыдзень зжаў пшаніцы за траіх, прычым без страт. Едуць к хлопцу павучыцца, напісаць і падзяліцца... Што ж, прымай іх — рад не рад!* Скрыпка.

**СТАВІЦЬ У АДЗІН РАД** *каго з кім.* Гл. ставіць.

*РАДАСЦЬ* ● **НЕ Ў Р`АДАСЦЬ** *каму. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Не дае задавальнення, не прыносіць шчасця, радасці. *У Леаніда ўзнікла раўнівае падазрэнне — а можа, яна [Аля] ужо астыла да яго, можа, гэткае спатканне ўжо не ў радасць.* Мележ. *[Гэлька:] Чалавек жа ён... А што не путны такі?.. Дык жа яму самому гэта не ў радасць.* Філіповіч. **У РАДАСЦЬ** *каму.* З супрацьлеглым знач. *Не думала Анюта, што гэты першы ўнучак будзе ёй у радасць.* Ракітны. *Марыя завіхалася каля стала лёгка і весела, ёй гэта было ў радасць.* Супрунчук.

**САБ`АЧАЯ Р`АДАСЦЬ**. *Мн. не ўжыв.* У ролі розных чл. ск. Праст. Іран. Самая танная каўбаса, звычайна ліверная. *Калі на паліцах будуць толькі кілбаскі «сабачая радасць», усе пойдзем з працягнутай рукой.* Адамчык. [Лепешаў, с. 63: сабачая радасць.]

*РАДАСЦЯХ* ● **НА Р`АДАСЦЯХ (-І).** *Акал. Разм.* З нагоды якой-н. удачы, радаснай падзеі. *[Старшыня:] А які ж прыемны бачыў сон: быццам мы з кумам Гаўрылам так доўга не бачыліся і, нарэшце, спаткаліся, на радасцях добра выпілі і, абняўшыся, праспалі ўсю ноч.* Галубок. *Вось на радасцях мы і вырашылі пажаніцца.* Гурскі. *Словам, Тарас Іванавіч Шырокі разышоўся на радасці, што калег спаткаў, бо толькі ў сваіх калегах ён бачыў сапраўдных людзей, з якімі адчуваеш сябе, як з братамі.* Колас. *Цётка Анэля ўсё гэта ведала, бо не раз бывала ў Васіліны, і тая на радасці пра ўсё ёй пераказвала.* І.Капыловіч.

*РАДАХ* ● **У П`ЕРШЫХ РАД`АХ (Ш`ЭРАГАХ, ШАР`ЭНГАХ)** *каго, чаго. Акал. Функц. не зам.* Уперадзе ўсіх, у ліку самых лепшых з каго-н. *Я ажно цэлы год быў у вёсцы. Заўсёды меркаваў быць у першых радах.* Гартны. *Народ прабівае сабе дарогу да вызвалення, і мы ідзём у першых радах гэтай пачэснай бітвы.* Пестрак. *Беларускія літаратары былі ў першых шэрагах будаўнікоў новага грамадства.* «Полымя».

*РАДЗЕ* ● **У РАДЗЕ** *каго, чаго.* Гл. шэрагу.

*РАДЗІМАЯ* ● **РАДЗІМАЯ ПЛЯМА** *чаго.* Гл. пляма.

*РАДЗІЦЦА* ● **РАДЗІЦЦА ПАД ШЧАСЛІВАЙ ЗОРКАЙ.** Гл. нарадзіцца.
**РАДЗІЦЦА Ў САРОЧЦЫ.** Гл. нарадзіцца.

*РАДКОЎ* ● **ЧЫТАЦЬ ПАМІЖ РАДКОЎ** <*што*>. Гл. чытаць.

*РАДУ* ● **НА РАДУ НАПІСАНА** *каму.* Гл. напісана.

*РАДУЕЦЦА* ● **ДУША РАДУЕЦЦА** *ў каго.* Гл. душа.

*РАДЫ* ● **БЕЗ ДАЙ РАДЫ.** Гл. дай.

**ГАДЫ Ў РАДЫ.** Гл. гады.

**ДАВАЦЬ РАДЫ.** Гл. даваць.

**ДАЙ <ТЫ> РАДЫ.** Гл. дай.

**НІ ДА Р`АДЫ НІ ДА ЗВ`АДЫ**. *Разм.* **1.** *Акал.* Абыякава, раўнадушна, не выяўляючы сваіх пачуццяў (трымацца, паводзіць сябе). «*А што гэты самы арыштаваны Сак, чаму ён трымаецца ні да рады ні да звады, ён што, не разумее, якая кара яго можа напаткаць?» – пацікавіўся Гук*. Астравец.

**2.** *Вык. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Раўнадушны, абыякавы. *Уразіла, што болей ніхто з процьмы мінакоў не ўзняў галавы. Абыякавасць? Нармальнасць? Або папросту людзі нашы – ні да рады, ні да звады.* «Дзеяслоў».

*РАДЫЁ* ● **Р`АДЫЁ (АГ`ЕНЦТВА) АБС**. *Нескл. У ролі розных чл. ск. Разм. Іран.* Пагалоска, няпэўныя пачутыя звесткі. **Сін.**: бабуліны казкі. *Аўтар звальвае з хворай галавы на здаровую. Часам крыніца сцвярджэнняў для яго – радыё АБС (адна баба сказала).* «Наша сл.» *Журналісты, выкладаючы «справу Якімцова», заведзеную ў слоўных баталіях нардэпам і дапоўненую радыё АБС, спасылаліся на выказванні дэпутата...* Паўлава. *Але бабы ўжо ўзварушыліся: – Ага! Вяшчуе кот штосьці! – Абразы пачнуць абнаўляцца! Памятаеце, у сорак шостым годзе... – Атамная вайна пачнецца! Кот усё ведае! – Кажуць, мэбля зноў падаражае! – Агенцтва АБС – Адна Баба Сказала!..* Місько.

<u>Брэша</u> **ЯК САВЕЦКАЕ РАДЫЁ.** *Акал. Разм. Іран.* Бессаромна і бясконца. *Калі б тое самае людзі пачулі па радыё, то яму ўжо даўно ніхто не верыць, нават прымаўка такая была – брэша як савецкае «радзіва»...* Кусянкоў.

*РАЖНА* ● **ПЕРЦІ СУПРАЦЬ РАЖНА.** Гл. перці.

**ЯК`ОГА РАЖН`А.** *Праст. Груб.* Выказванне абурэння чыімі-н. дзеяннямі, паводзінамі. **1**. *Акал.* Чаму, для чаго, з якой мэтай (робіць хто-н. што-н.). **Сін**.: да д'ябла (у 3 знач.); на воўка; на ліха; на халеру; на хваробу; на храна; на чорта; на які ляд; на які хрэн; на які чорт; на якога чорта; на якое ліха; на якую трасцу; на якую халеру; якога ліха (у 1 знач.); якога хрэна (у 1 знач.); якога чорта (у 1 знач.). *—Заданне атрымаў. —Якое? —Па сяле не разнясеш? —Я! Па сяле? Дык якога ражна ты да мяне прыходзіш? Патрэбен мне твой лес, тваё заданне! Вон!* Лобан.

**2**. *Дап.* Чаго (трэба, не хапае каму-н.). **Сін**.: якога ліха (у 2 знач.); якога хрэна (у 2 знач.); якога чорта (у 2 знач.). *Салаўёў абсталяваў яўку, а на чыгунцы створана разведгрупа. Якога ражна яшчэ трэба?* Асіпенка. *Што вам? Чаго вы чапляецеся? Якога ражна вам трэба ад мяне?* Быкаў. *Дзень і так ужо быў поўны адметнымі падзеямі быццам укоптарак. Здавалася б, якога ражна яшчэ*

*трэба?* Чыгрынаў.

*РАЖНЕ* ● **БАЧЫЦЬ НА РАЖНЕ** *каго.* Гл. бачыць.

*РАЖОН* ● **ЛЕЗЦІ НА РАЖОН.** Гл. лезці.

**ПАЛЕЗЦІ НА РАЖОН.** Гл. палезці.

**ПЕРЦІ НА РАЖОН.** Гл. перці.

*РАЗ* ● **АДЗІН РАЗ МАРКУ ЖАНІЦЬ.** Гл. жаніць.

**ВОСЬ ТАБЕ І РАЗ.** Гл. вось.

**\`ІНШЫ Р\`АЗ.** *Акал. Функц. не зам.* Часам, у некаторых выпадках. **Сін.**: другім разам (у 1 знач.); сяды-тады; то тады то сяды; тыя разы. *Іншы раз у цішыню Куранёў урываўся вясёлы голас з-за выгану: падшыванцы — свіныя пастухі, забыўшы пра сваіх свіней, пра ўсё на свеце, плёскаліся ў копані, у зацвілай раскай тухлай вадзе.* Мележ. *Іншы раз бывае карысней памаўчаць...* Чарнышэвіч.

**Р\`АЗ-ДВ\`А І ГАТ\`ОВА.** *У безас. ужыв. Разм.* Вельмі хутка можа быць зроблена. **Сін.**: раз-два і ў дамках. *[Якім:] Я ўжо, прызнацца табе, гаварыў з папом. Ён заўтра прыязджае ў Міхалішкі імшу адпраўляць і заначуе ў аколіцы. Ну, а мы к яму... раз-два і гатова.* Купала. *—Гэта вельмі цяжка. —Не лёгка, не раз-два і гатова. Але магчыма. —Не ведаю... Наўрад ці я здолею.* Чарнышэвіч. *У мяне няма гэтага, каб цягнуць. Я калі сказаў, дык раз-два і гатова.* Ермаловіч.

**Р\`АЗ-ДВ\`А І Ў Д\`АМКАХ (-І).** *Часцей у безас. ужыв. Разм.* Вельмі хутка можа быць зроблена. **Сін.**: раз-два і гатова. *Рацыяналізм рацыяналізму розніца. Мой рацыяналізм — у выбары жаданняў, выбраў, а там ужо — раз-два і ў дамках.* Рубанаў. *Што больш ты марудзіш з ім, то ты менш чаго зробіт. Раз-два і ў дамкі. Ці праўда, Цівунчык?* Зарэцкі. *А што там, раз-два і ў дамкі. Возьмем іх аўтаматы і пойдзем з вамі.* Гурскі.

**\`РАЗ-ДВ\`А І ЎС\`Ё** *каго, чаго. Часцей у безас. ужыв. Разм.* Вельмі мала, зусім невялікая колькасць каго-, чаго-н. **Сін.**: з верабʼёў нос (у 1 знач.); з жабіны прыгаршчы *чаго*; з камароў нос (у 1 знач.); з макава зерне; кропля ў моры <*чаго*>; курам на смех (у 3 знач.); на жабін скок (у 2 знач.); на заячы скок; на капейку; на макава зерне; на пальцах можна пералічыць *каго, што*; на панюх табакі (у 1 знач.); на шэлег (у 1 знач.); не поле насеяна *каго*; як кату; <як> кот наплакаў *каго, чаго*; як старой бабе сесці *чаго*. *Падыходжу я пад Сцепуржынскага дом, зазірнуў у акно — аж там за сталом сям'іска, пане мой, сядзіць, можа, чалавек дваццаць, і з стала пара ў столь дае. Бачу — гарачую бульбу ядуць. І ўсё незнаёмыя людзі. Што за ліха, думаю, гэта ж не Сцепуржынскага сям'я. У таго сямі — раз-два і ўсё...* Чорны. *Людзей у пралётах раз-два і ўсё.* «Звязда».

**Р`АЗ ЗА Р`АЗАМ.** *Акал. Функц. не зам.* Зноў і зноў, шмат разоў запар (рабіць што-н.). **Сін**.: раз-пораз; сюд-туд (у 2 знач.). *Сонца ўзнялося вышэй і грэла неміласэрна. Міхась раз за разам выціраў пот.* Чарнышэвіч. *Часта [Рэната] лётала па ваду да ручая, раз за разам мяняла мокры ручнік на галаве ў Генадзя, паіла вадой кулямётчыка.* Савіцкі. *Георгій раз за разам ляскае даланёй па голай спіне. Я ў кашулі, а яго, рызыканта, даймае заедзь.* Пашкоў.

**РАЗ <І> НАЗАЎСЁДЫ.** *Акал. Функц. не зам.* Канчаткова, беспаваротна. *І зразумейце раз і назаўсёды, што я ў апякунстве не адчуваю патрэбы.* Гурскі. *І лейтэнант, адчуўшы, што тут можа нешта раз і назаўсёды рашыцца, дадаў: — Артылерыйская база за шэсцьдзесят кіламетраў адсюль.* Быкаў. *Цяпер уся краіна — фронт. Хіба няпраўда? А мы паступова і раз назаўсёды выбіваем ворага з яго пазіцый.* Галавач. *Дык вось у гэты самы дзень здарылася тое, што заварушыла балота і раз назаўсёды жыццё венцяроўцаў зрабіла неспакойным...* Чарот.

**Р`АЗ НА Р`АЗ НЕ ПРЫХ`ОДЗІЦЦА.** *Разм.* **1**. У *знач. вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Не заўсёды аднолькавы. *У кожным творчым і несапсаваным чалавеку павінен жыць як бы свой, «унутраны» крытык. Хай сабе такі самакантроль, як кажуць, раз на раз не прыходзіцца, але калі ў душы творцы будзе такое крытычнае «вока» — яно, безумоўна, дапаможа яму больш рэальна і цвяроза глядзець на свае творчыя задумы...* Янішчыц.

**2**. *Акал.* Не заўсёды аднолькава. —*Ты, Жэня, колькі ў год надойваеш ад каровы? —Раз на раз не прыходзіцца, але ў сярэднім дзесьці 3800 кілаграмаў.* «Звязда».

**РАЗ ПЛЮНУЦЬ** *<каму, для каго>*. Гл. плюнуць.

**Р`АЗ-П`ОРАЗ**; **Р`АЗ-П`ОРАЗУ.** *Акал. Функц. не зам.* Зноў і зноў, шмат разоў запар (рабіць што-н.). **Сін**.: раз за разам; сюд-туд (у 2 знач.). *Чорныя вальцы раз-пораз убіраюць пад сябе нагружаны наборам талер.* Брыль. *На вяроўках раз-пораз цяжка ўсхліпвае, ірвучыся ў сінюю далечыню, раскалыханая вятрамі бялізна.* Палтаран. *Раз-поразу паглядае Сцяпан у той бок, дзе спынілася фурманка.* Крапіва. *Чалавек раз-поразу нязручна намагаўся пацерці шчаку аб каўнер чыгуначнай курткі, у якую быў апрануты.* Лынькоў.

**<У> С`АМЫ Р`АЗ.** *Разм.* **1**. *Акал.* Акурат у час, тады, калі трэба. *Самы раз дзяцей будзіць, час у дарогу...* Лынькоў. *У думках усё перамяшалася, ногі сталі быццам чужыя, самы раз было павяртаць назад, за Нёман, у атрад.* Быкаў. —*Прабачце мне, трохі спазніўся... —Нічога, нічога, дзядуля. У самы раз прыйшлі...*

М.Капыловіч. *Блізіцца вечар, самы раз шукаць месца для начлегу.* Пашкоў.

**2**. *каму, для каго. Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Цалкам падыходзіць, адпавядае каму-н. *—Відаць, пакорлівая дзеўка, баязлівая. —У самы раз будзе вам. Нікуды не пойдзе жаліцца, што перапрацавалася.* Галавач. *Усе ведалі: такое надвор'е самы раз для партызан.* Шчарбатаў. *[Аскольд:] Намалявай мне два ў лістку і вытурый, не знаючы, што два — мне самы раз!* Гілевіч.

**3**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Акурат падыходзіць па размеру. Часцей пра адзенне, абутак. *Ганна надзяе.. [плацце] і кажа: —У самы раз, мама. Як на мяне пашытае.* Лупсякоў. *—Дай я памагу табе, — Дзёмін узяў плантэтку, прымерыў, падцягнуў раменьчык, перакінуў Кастусю цераз галаву. —Ну во, зараз самы* роз... Кудравец.

**ЯК <ДРУГІ РАЗ> НА СВЕТ НАРАДЗІЎСЯ.** Гл. нарадзіўся.

*РАЗАБРАЦЬ* ● **РАЗАБРАЦЬ ПА КОСТАЧКАХ** *каго. Зак. да* **РАЗБІРАЦЬ ПА КОСТАЧКАХ** *каго.*

*РАЗАЛЬЕШ* ● **ВАД`ОЙ НЕ РАЗАЛЬ`ЕШ** *каго. У безас. ужыв. Разм.* Вельмі дружныя, неразлучныя, заўсёды разам. **Сін**.: звязаў чорт вяровачкай *каго*; не разлівада *з кім. [Зелянюк] ведае, што [Аўгіньку] з Віктарам вадой не разальеш, і такое заўзятае каханне яму вельмі імпануе.* Зарэцкі. *На першых лекцыях мы толькі яшчэ прыглядваемся адна да аднае. Пад канец заняткаў нас ужо не разальеш вадою.* Васілевіч. **ВАДОЙ НЕ РАЗЛІЦЬ** *каго. Васіль Фёдаравіч Сяргейчык і Рыгор Іванавіч нарадзіліся і выраслі тут, у Люсіне. Гэта пра такіх людзей гавораць: іх вадой не разліць.* Праскураў. *За ваенную дысцыпліну Камбатам яго і празвалі. Затое брыгада яго лепшай была. З Цюмені пачалі. З той пары людзей яго вадой не разліць.* Кобец-Філімонава. *Хітрун Навагодаў! Некалі яны, сябры – не разліць вадой, высвятлялі, у каго больш значнае і змястоўнае прозвішча: Галван ці Навагодаў?* Шамякін.

*РАЗАМ* ● **ДРУГ`ІМ (`ІНШЫМ) Р`АЗАМ.** *Акал. Разм.* **1**. Часам, у некаторых выпадках. **Сін**.: іншы раз; сяды-тады; то тады то сяды; тыя разы. *Я вельмі рада з вамі пазнаёміцца.. Іншым разам можна сустрэцца з прыемнымі людзьмі.* Самуйлёнак. *Старэйшаму Шарэйку толькі іншым разам шкода было, што некалі, будуючы хату, на вялікае замахнуўся...* Чыгрынаў.

2. Калі-небудзь, не цяпер. *[Вера:] Расшыфруйце, Мікіта Сымонавіч, што гэта значыць. [Туляга:] Потым, другім разам.* Крапіва. *[Ганецкі:] Нічога, пане Лабыш, другім разам вып'ем...*

Козел.

**ЗА АДН`ЫМ Р`АЗАМ.** *Акал. Разм.* Заадно, адначасова з чым-н. другім (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін**.: за адным заходам; за адным махам; за адным швом. *[Гудовіч:] У Кіславодску хораша ўвосень. Паветра ў гарах чыстае, сумленне ў цябе чыстае — адпачывай, колькі душа пажадае. За адным разам і ў нарзанчыку памокнем, сэрца падлечым.* Крапіва. *Слухай, тата, забяры мяне, а? Хоць адным вокам на тваю кампанію зірну. Ды і павячэраю за адным разам.* Ласкоў.

**Р`АЗАМ З Т`ЫМ.** *Акал. Функц. не зам.* У той жа час, адначасова. *Тры ночы, мусіць, не спала і Стася, прыслухоўваючыся, ці не пастукае хто ў дзверы гэтага маленькага доміка. Але разам з тым Крамарчык ведаў, якая сіла волі тоіцца ў гэтай маленькай жанчыне.* Самуйлёнак. *У рэспубліцы шмат чаго робіцца ў гэтым кірунку. Разам з тым нас непакоіць даволі высокая забруджанасць атмасферы па асобных інгрэдыентах.* «Звязда».

**РАЗ ЗА РАЗАМ.** Гл. раз.

*РАЗАНУЦЬ* ● **РАЗАН`УЦЬ <НАЖ`ОМ> ПА С`ЭРЦЫ** *каго. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Прычыніць каму-н. душэўны боль. **Сін**.: вымотваць жылы (у 2 знач.); вымотваць кішкі *каму* (у 1 знач.); гнаіць душу *чыю, каму,* кроіць сэрца *каму, чыё*; раздзіраць душу *каму, чыю*; рваць душу *чыю, каму*; рэзаць па жывому (у 2 знач.); рэзаць сэрца *каму*; сушыць сэрца *чыё, каму*; цягнуць душу з *каго*; цягнуць за душу *каго. Вось падыходзіць адзін з таварышаў і паведамляе яму [Петрусю], што яго чакае нейкая паненка каля варот фабрыкі. Гэта разанула нажом па сэрцы.* Нёманскі. —*Хіба ты не знарок сюды ехаў, што з палукашкам? — яшчэ раз разануў Залман па сэрцы Цітка.* Лобан. *Буртын прыліп да рамы і расслухаў: «... на базе... калектывізацыі... ліквідаваць як клас...» Хоць цяпер гэта паўтаралася на кожным сходзе, такія словы Буртына балюча разанулі па сэрцы.* Грамовіч.

*РАЗАРВАЦЦА* ● **РАЗАРВАЦЦА НА ЧАСТКІ.** *Зак да* **РАЗРЫВАЦЦА НА ЧАСТКІ**.

*РАЗАРВІСЯ* ● **Х`ОЦЬ РАЗАРВ`ІСЯ (ПАРВ`ІСЯ, ПАДАРВ`ІСЯ)** *каму. Толькі ў заг. л. Разм. Неадабр.* **1**. У *безас. ужыв.* Каму-н. трэба адразу рабіць некалькі спраў. **Сін**.: дыхнуць няма калі *каму. У каго дзесяць якіх дзесяцін ці, скажам, чатырнаццаць, як у мяне, таму няўпраўка, таму хоць разарвіся.* Галавач. *Сам пайшоў, а мяне пакінуў мучыцца. Адну з дзецьмі... Яму там добра, спакойна, а мне тут хоць разарвіся.* Кудравец. —*Жытка! — сказаў ён [стары], сеўшы на лаве. — Сама памерла, ён вось хварэе, а мне хоць

*парвіся!..* Брыль. *Потым [Пракопчык] падумаў пра жонку, якая адна засталася дома. Цяпер ёй там хоць парвіся — усюды адна.* Карамазаў. *[Даміцэля:] Звалаклася недзе, а тут адной мне хоць падарвіся: ні вады каму прынесці, ні ў хаце прыбраць.* Купала.

**2**. *Акал.* Нягледзячы ні на якія старанні, намаганні; што ні рабі (не атрымліваецца што-н.). **Сін**.: хоць на кавалкі разрывайся; хоць памры; хоць ты крыжам ляж; хоць <ты> лопні (у 1 знач.); хоць ты што *каму. А кабыла Андрэева — важная кабыла! Не скора такую цяпер набудзеш. Чалавеку цяпер проста хоць ты разарвіся з жалю.* Крапіва.

*РАЗБІВАЦЦА* ● **РАЗБІВ`АЦЦА Ў БЛ`ІН.** *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыкладаць усе намаганні, каб дасягнуць чаго-н. **Сін**.: вылузвацца са скуры; выцягвацца ў нітку; зямлю грызці (у 1 знач.); разбівацца ў дошку; разрывацца на часткі. **РАЗБІЦЦА Ў БЛІН.** *Зак. [Кузаеў:] Разбіся ў блін, а няшчасных дзяўчатак памый.* Шамякін. *Ды каб жа я ведаў! Я б таксама ў блін разбіўся, а здабыў пуцёўку.* Корбан.

**РАЗБІВ`АЦЦА Ў Д`ОШКУ.** *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыкладаць усе намаганні, каб дасягнуць чаго-н. **Сін**.: вылузвацца са скуры; выцягвацца ў нітку; зямлю грызці (у 1 знач.); разбівацца ў блін; разрывацца на часткі. **РАЗБІЦЦА Ў ДОШКУ.** *Зак. Віцька патрэпаў рукой па каленях, жываце, спытаў — можа, яшчэ што трэба памагчы, дык ён разаб'ецца ў дошку, але зробіць.* Рубанаў. *Разаб'юся ў дошку, бацця, к святу буду ў роднай хаце. Толькі ты да той пары мне грыбочкаў сабяры.* Жуковіч. *—Ты што.., не бачыў падобнай? Падабаецца? —Эх!.. У дошку разбіўся б... — уздыхнуў і болей ні слова.* Ракітны.

*РАЗБІВАЦЬ* ● **РАЗБІВ`АЦЬ С`ЭРЦА** *каму, чыё. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіць каго-н. няшчасным, прычыняючы яму душэўныя пакуты. Часцей пра няўдалае каханне. *Выкінь яго [Алеся] зусім з галавы. Слухайся бацькі і маці. Не разбівай іхняга сэрца.* Броўка. **РАЗБІЦЬ СЭРЦА** *каму, чыё. Зак. Разбіла збан. Збірае чарапкі і плача. А калі разбіла маё сэрца, пайшла, смеючыся. Нават не аглянулася.* Танк.

*РАЗБІРАЦЬ* ● **РАЗБІРАЦЬ ПА КОСТАЧКАХ** *каго.* Гл. перабіраць.

*РАЗБІТАГА* ● **ЛЯ РАЗБІТАГА КАРЫТА.** Гл. карыта.

*РАЗБІТАЕ* ● **РАЗБІТАЕ КАРЫТА.** Гл. карыта.

*РАЗБІТЫ* ● **ЗВАНІЦЬ У <РАЗБІТЫ> ЛАПАЦЬ.** Гл. званіць.

**ЛЁД РАЗБІТЫ.** Гл. лёд.

*РАЗБІТЫМ* ● **З РАЗБІТЫМ СЭРЦАМ.** Гл. сэрцам

**ПЕРАД РАЗБІТЫМ КАРЫТАМ.** Гл. карытам.

*РАЗБІЦЦА* ● **РАЗБІЦЦА Ў БЛІН.** *Зак. да* **РАЗБІВАЦЦА Ў БЛІН.**

**РАЗБІЦЦА Ў ДОШКУ.** *Зак. да* **РАЗБІВАЦЦА Ў ДОШКУ.**

*РАЗБІЦЬ* ● **РАЗБ`ІЦЬ Л`ЁД** *<чаго, паміж кім>. Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Ліквідаваць нацягнутасць у адносінах паміж кім-н. **Сін**.: растапіць лёд. *Таццяна не стрымала ўсмешку, і гэта разбіла лёд сур'ёзнасці. Жэнька пад'ехаў да яе і працягнуў руку.* Шамякін.

**РАЗБІЦЬ СЭРЦА** *каму, чыё. Зак. да* **РАЗБІВАЦЬ СЭРЦА** *каму, чыё.*

*РАЗБЛЫТАЦЬ* ● **РАЗБЛЫТАЦЬ КЛУБОК.** *Зак. да* **РАЗБЛЫТВАЦЬ КЛУБОК.**

*РАЗБЛЫТВАЕЦЦА* ● **ВУЗЕЛ РАЗБЛЫТВАЕЦЦА.** Гл. вузел.

**КЛУБОК РАЗБЛЫТВАЕЦЦА.** Гл. клубок.

*РАЗБЛЫТВАЦЬ* ● **РАЗБЛ`ЫТВАЦЬ (РАЗМ`ОТВАЦЬ) КЛУБ`ОК.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Высвятляць якую-н. складанасць, заблытаную справу, дабірацца да сутнасці чаго-н. **Сін**.: развязваць вузел. *Пазней Магду два разы выклікалі на допыт і вось, нарэшце, прынеслі позву... Яна разумела, што іначай нельга: на яе дзяжурстве адбылося гэта, ёй і памагаць разблытваць клубок.* Пальчэўскі. **РАЗБЛЫТАЦЬ (РАЗМАТАЦЬ) КЛУБОК.** *Зак. Ой, Валодзечка, што тут рабілася ў вайну! Ніхто не разбярэцца, так было страшна! — Вішанька [пракурор] разбярэцца! Разматае клубок.* Мыслівец. *Як жа Ганна ажыла душой і пасмялела, калі Дзянісаў, разматаўшы клубок махінацый на фабрыцы-кухні, звольніў Намысніка з работы!..* Грамовіч.

*РАЗБОЙНІКІ* ● **РАЗБ`ОЙНІКІ ПЯР`А.** *Адз. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Пагард.* Прадажныя, беспрынцыповыя пісакі. *Адвакат па сваёй адукацыі, містэр Ніксан не пнуўся павучаць разбойнікаў пяра, як высмоктваць з пальца сенсацыю ў кожны нумар газеты.* «Вожык».

*РАЗБОР* ● **НА РАЗБ`ОР Ш`АПАК** <u>прыходзіць, паспець, трапіць</u> і пад. *Акал. Разм.* Пад самы канец чаго-н., з вялікім спазненнем. **Сін**.: к шапачнаму разбору; на шапачны разбор; у свіныя галасы. *Ты чаго прыходзіш на разбор шапак?* Шамякін. *Было відаць, што вячэра ідзе не першую гадзіну, і я зразумеў, што паспеў на разбор шапак — не болей.* Быкаў. *Мікодым падаспеў ужо, як той казаў, на разбор шапак.* Сабаленка. *На вайну я трапіў на разбор шапак.* Чорны.

**НА Ш`АПАЧНЫ РАЗБ`ОР** <u>паспець, прыходзіць, ісці</u> і пад. *Акал. Разм.* Пад самы канец чаго-н., з вялікім спазненнем. **Сін**.: к шапачнаму разбору; на разбор шапак; у свіныя галасы. *[ Караневіч: ] А сюды мы, здаецца, на шапачны разбор паспелі. [Рыбнікаў:] Што,*

*канцэрт скончыўся? Не бяда, танцы будуць.* Крапіва. *Тады Чубар сказаў, але ўжо нібыта ў злосці: —На шапачны разбор, лічы, прыйшоў!..* Чыгрынаў. *Марыя, і сапраўды, не збіралася ісці на складчыну. Калі там яшчэ падоіць кароў; калі вернешся дамоў, дык ці варта ісці на шапачны разбор.* Асіпенка.

**РАЗБ`ОР ПАЛЁТАЎ**. *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм.* **1.** Аналіз якіх-н. падзей, учынкаў і пад. *Мой аповед будзе «крыху» разыходзіцца з афіцыйнай версіяй... А цяпер, як кажуць, разбор палётаў. Вось што адбылося насамрэч у той памятны дзень...* «ЛіМ». *Пасля якой-небудзь няўдачы, калі пачынаўся «разбор палётаў» ды пошукі вінаватых, палітработнікі звычайна дапытваліся ў падначаленых: «Чаму не было заклікаў?»* Быкаў. *Натоўп міліцыянтаў суправаджае купку «бээнэфаўцаў». Потым дзесяць дзён адбываецца «разбор палётаў».* Астравец.

**2.** Крытыка каго-н., праборка, суровая вымова за што-н. *Людзям, якія не вераць у сілу заклінанняў, абсалютна зразумела, што падобныя разборы палётаў ніяк не ўплываюць на ўраджайнасць.* «Нар. газ.» *[Ранейшы імідж] даводзіцца перыядычна падтрымліваць жорсткімі разборамі палётаў тыпу ліпеньскага: куды дзявалі сялянскія грошы?* «Нар. воля».

*РАЗБОРУ* • **К ШАПАЧНАМУ РАЗБОРУ** *прыходзіць, паспець* і пад. *Акал. Разм.* Пад самы канец чаго-н., з вялікім спазненнем. **Сін**.: на разбор шапак; на шапачны разбор; у свіныя галасы. — *Паспяшайся, Шчарбацюк! — наказаў суха камандуючы. —А то паспееш — к шапачнаму разбору!..* Мележ. *Іграеш і тым часам бачыш, што дзяўчат усё менш і менш застаецца: адна з тым пайшла, другая з тым — усе занятыя... І, як кажуць, к шапачнаму разбору — ніводнай пагляднай дзяўчыны...* Ракітны.

*РАЗБЯГАЮЦЦА* • **ВОЧЫ РАЗБЯГАЮЦЦА** *ў каго, чые.* Гл. вочы.

*РАЗБЯРУЦЬ* • **ЛЮДЗІ НОЧ РАЗБЯРУЦЬ.** Гл. людзі.

*РАЗБЯРЫ* • **НЕ РАЗБЯР`Ы-БЯР`Ы.** *Акал. Праст. Неадабр.* Невядома, незразумела. *Шульке вёрз яшчэ невядома што, не разбяры-бяры.* Лынькоў. *—Хто гэта такі? З раёна? —Пэўна ж. Іх цяпер не разбяры-бяры колькі ходзіць.* Галавач.

*РАЗБЯРЭ* • **САМ ЧОРТ НЕ РАЗБЯРЭ.** Гл. чорт.

**ЧОРТ ЯГО РАЗБЯРЭ.** Гл. чорт.

*РАЗВЕДКА* • **РАЗВ`ЕДКА Б`ОЕМ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Спроба высветліць што-н. у выніку непасрэднага дзеяння. *Гэта — выдаткі, а ўвогуле раманіст вядзе настойлівую, глыбокую, вельмі працаёмкую «разведку боем», імкнецца паказаць*

*новае ў побыце, адносінах, чалавечых лёсах.* Гніламёдаў. *Дакладчык назваў у заключным слове пісьменніцкі пленум разведкай боем...* «ЛіМ».

*РАЗВЕСІЎШЫ* ● <u>*Слухаць*</u> **В`УШЫ РАЗВ`ЕСІЎШЫ.** *Акал. Праст.* З вялікім захапленнем і цікавасцю. *[Сцяпан:] А ты, каханенькая, родненькая, не слухай вушы развесіўшы, ды лепей гасцей глядзі.* Купала. *Дзед гаварыў з ім [Юрасём], як з дарослым, і малому гэта, відаць, падабалася, бо слухаў вушы развесіўшы.* Караткевіч. *Сцяпан Васільевіч.. пагаворыць з людзьмі, расталкуе, раскажа... І слухаюць яго — во так, вушы развесіўшы.* Макаёнак.

*РАЗВЕСІЦЬ* ● **РАЗВЕСІЦЬ ВУШЫ.** *Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Стаць уважліва, даверліва і з захапленнем слухаць каго-н. **Сін.:** навастрыць вушы; наставіць вушы; натапырыць вушы; <увесь> ператварыўся ў слых. *Давай, давай, залівай, гаварыць ты ўмееш. Я паслухаю, але не думай, што развешу вушы, як тая Тася.* Шамякін. *А вы чаго вушы развесілі? Непрыгожа да старэйшых прыслухоўвацца. Кыш з хаты!* Калодзежны. *Ці мала што можа гаварыць дзед Нічыпар, адно зачапіся з ім ды распусці вушы.* Хадкевіч.

*РАЗВЕСЦІ* ● **РАЗВЕСЦІ АНТЫМОНІІ.** *Зак. да* **РАЗВОДЗІЦЬ АНТЫМОНІІ.**

**РАЗВЕСЦІ РУКАМІ.** *Зак. да* **РАЗВОДЗІЦЬ РУКАМІ.**

**РАЗВЕСЦІ СЫРАСЦЬ.** *Зак. да* **РАЗВОДЗІЦЬ СЫРАСЦЬ.**

**РАЗВЕСЦІ ТАРЫ-БАРЫ.** *Зак. да* **РАЗВОДЗІЦЬ ТАРЫ-БАРЫ.**

**РАЗВЕСЦІ ТУРУСЫ <НА КАЛЁСАХ>.** *Зак. да* **РАЗВОДЗІЦЬ ТУРУСЫ <НА КАЛЁСАХ>.**

*РАЗВЕШВАЦЬ* ● **РАЗВ`ЕШВАЦЬ (РАСПУСК`АЦЬ) В`УШЫ.** *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Слухаць што-н. даверліва і з вялікім захапленнем. **Сін**.: вастрыць вушы; глядзець у рот *каму* (у 1 знач.); настаўляць вушы; натапырваць вушы; ператварацца ў слых; стрыгчы вушамі. *Чаго вушы развешваем? Няма тут чаго слухаць…* «Маладосць».

**2**. *Неадабр.* Заслухаўшыся або пад уражаннем пачутага, забываць пра справу. **Сін**.: разяўляць рот (у 5 знач.). *«Д'ябал цыбаты! — падумаў ён [Сімон], пазіраючы ўслед Гунава. —Што ўжо схопіць, абцугамі ад яго не вырвеш. Так і трэба! А ты не развешвай вушы!»* Самуйлёнак. *Лесін з упартасцю падумаў, што ні адзення, ні карабіна ён нікому не аддасць, не будзе распускаць вушы, слухаючы чужую гаворку.* А.Жук.

*РАЗВОДЗІЦЬ* ● **РАЗВ`ОДЗІЦЬ АНТЫМ`ОНІІ (-Ю).** *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Весці пустыя,

непатрэбныя размовы. **Сін**.:. араць дарогі; біць язык аб зубы (у 2 знач.); блынды правіць; гарадзіць плот <*каму*>; званіць у <разбіты> лапаць; круціць вала <за хвост> (у 2 знач.); ліць ваду; мазоліць язык; малоць языком (у 1 знач.); малоць не падсяваючы; мянціць языком; пераліваць з пустога ў парожняе (у 2 знач.); плесці кашалі <*каму, пра каго, пра што*>; плесці кашалі з лапцямі; плесці лапці; пляскаць языком; разводзіць тары-бары; тары-бары <растабары> (у 2 знач.); таўчы ваду ў ступе (у 2 знач.); тачыць лясы <*з кім*>; травіць баланду (у 1 знач.); трапаць языком; часаць язык (у 1 знач.); часаць языком. *Пажывём — пабачым... Выліўкі нам не дзіва. Бач, антымоніі разводзіць, на сходзе ні слова.* Лынькоў. *Пішы. Чаго там разводзіць антымоніі!* Шамякін. **РАЗВЕСЦІ АНТЫМОНІІ (-Ю).** *Зак. Ну, хопіць! Развёў антымонію. Што будзем рабіць з абуткам?* Левановіч.

**РАЗВ`ОДЗІЦЬ РУК`АМІ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даходзіць да крайняга здзіўлення, недаўмення; не ведаць, як выйсці з цяжкага становішча. **Сін**.: дзіву давацца; не верыць <сваім> вачам; не даваць веры <сваім> вачам; рабіць вялікія вочы; разяўляць рот (у 3 знач.). *Куды ні хадзіў бацька, да якіх начальнікаў ні стукаўся, нічога не памагала. Ніхто нават не абяцаў нічога, усе адно разводзілі рукамі.* Васілёнак. *Бясспрэчна, разводзіць рукамі куды лягчэй, чым займацца канкрэтнымі справамі, арганізаваць належнае кармленне статка.* «Звязда». **РАЗВЕСЦІ РУКАМІ.** *Зак. Быў скліканы кансіліум з лепшых спецыялістаў-медыкаў горада. Аднак і тыя, агледзеўшы хворую, толькі рукамі развялі. Надзеі на ўратаванне хворай не было.* Машара.

**РАЗВ`ОДЗІЦЬ С`ЫРАСЦЬ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв пры дзейн. са знач. асобы. Плакаць. **Сін**.: абліваецца слязамі; бярозаю ліцца; вачэй не асушваць; выплакаць <усе> вочы; выціскаць слязу (у 1 знач.); ліць слёзы <*па кім*>; пець рэпку; пускаць слязу; распускаць нюні (у 1 знач.); умывацца слязамі. *[Гарошка:] Ну, ты, цыц! Не разводзь сырасць...* Макаёнак. *Жарыкаў, як толькі сеў, пачаў усхліпваць. —Перастань ты! — цыкнуў Чаротны. —Чаго сырасць разводзіш?* Асіпенка. **РАЗВЕСЦІ СЫРАСЦЬ.** *Зак. Маладыя здаровы дзяцюк з кулакамі малатабойца, з абветраным, загарэлым тварам сядзіць над аркушам паперы і гатовы развесці сырасць.* Левановіч.

**РАЗВ`ОДЗІЦЬ Т`АРЫ-Б`АРЫ.** *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Весці пустыя, непатрэбныя размовы. **Сін**.: араць дарогі; біць язык аб зубы (у 2 знач.); блынды правіць; гарадзіць плот <*каму*>; званіць у <разбіты> лапаць; круціць вала

<за хвост> (у 2 знач.); ліць ваду; мазоліць язык; малоць языком (у 1 знач.); малоць не падсяваючы; мянціць языком; пераліваць з пустога ў парожняе (у 2 знач.); плесці кашалі <*каму, пра каго, пра што*>; плесці кашалі з лапцямі; плесці лапці; пляскаць языком; разводзіць антымоніі; тары-бары <растабары> (у 2 знач.); таўчы ваду ў ступе (у 2 знач.); тачыць лясы <*з кім*>; травіць баланду (у 1 знач.); трапаць языком; часаць язык (у 1 знач.); часаць языком. *Ёсць між намі дзе-нідзе аматары «памарыць»... Такі вам будзе цэлы дзень разводзіць тары-бары.* Кляўко. *Конь стаіць запрэжаны, а мы тары-бары разводзім!..* Місько. **РАЗВЕСЦІ ТАРЫ-БАРЫ.** *Зак. — Хлопцы, што вы тары-бары развялі? — падышоў камандзір.* Ставер.

**РАЗВ`ОДЗІЦЬ ТУР`УСЫ <НА КАЛ`ЁСАХ>.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Балбатаць, гаварыць глупства, хлусіць. **Сін**.: заліваць кулі *каму*; заліваць пушку *каму*; падпускаць турусы на калёсах *каму. [Голас з грамады:] Разводзь, разводзь, доўгавалосы, турусы на калёсах!* Колас. *Ды мала што тут мне наплёў стары! Я сам, як кажуць, маю вусы: б'юць — уцякай! Даюць — бяры! І нечага разводзіць тут турусы...* Э.Валасевіч. **РАЗВЕСЦІ ТУРУСЫ <НА КАЛЁСАХ>.** *Зак.*

*РАЗВЯЗАНЫ* ● **РУКІ РАЗВЯЗАНЫ** *ў каго, чые.* Гл. рукі.

*РАЗВЯЗАЦЬ* ● **РАЗВЯЗАЦЬ ВОЧЫ** *каму. Зак. да* **РАЗВЯЗВАЦЬ ВОЧЫ** *каму.*

**РАЗВЯЗАЦЬ ВУЗЕЛ.** *Зак. да* **РАЗВЯЗВАЦЬ ВУЗЕЛ.**

**РАЗВЯЗАЦЬ РУКІ** *каму. Зак. да* **РАЗВЯЗВАЦЬ РУКІ** *каму.*

**РАЗВЯЗАЦЬ САБЕ РУКІ.** *Зак. да* **РАЗВЯЗВАЦЬ САБЕ РУКІ.**

**РАЗВЯЗАЦЬ ЯЗЫК.** *Зак. да* **РАЗВЯЗВАЦЬ ЯЗЫК.**

*РАЗВЯЗВАЕЦЦА* ● **ВУЗЕЛ РАЗВЯЗВАЕЦЦА.** Гл. вузел.

**ЯЗЫК РАЗВЯЗВАЕЦЦА** *ў каго, чый.* Гл. язык.

*РАЗВЯЗВАЦЬ* ● **РАЗВ`ЯЗВАЦЬ В`ОЧЫ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дапамагаць зразумець сапраўднае становішча, прасвятляць каго-н. палітычна, духоўна і пад. **Сін**.: адкрываць вочы *каму* <*на што, на каго*>; праціраць вочы (у 2 знач.); расплюшчваць вочы *каму на каго, на што. І трэба, таварышы, не толькі пускаць у ход зброю знішчэння ў вайне з панамі, а трэба таксама развязваць вочы несвядомым польскім салдатам, абуджаць іх класавую свядомасць...* Колас. **РАЗВЯЗАЦЬ ВОЧЫ** *каму. Зак. [Ісмэт:] Хай прыедзе вось Чычэрын, дык мо вочы мне развяжа, ратавацца як — пакажа.* Крапіва. *Іх ашукваюць буржуі. Салдатам трэба вочы развязаць. Праўду расказаць.* Хомчанка.

**РАЗВ`ЯЗВАЦЬ В`УЗЕЛ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вырашаць што-н. складанае, заблытанае. **Сін**.: разблытваць клубок. **РАЗВЯЗАЦЬ ВУЗЕЛ.** *Зак. Часам у словах чулася скарга, сярдзітасць, часам поўнае здавальненне тым, што ўдалося развязаць вузел, удалося перамагчы ўсё і паставіць на сваім, як хацеў [Лявон], як трэба было.* Галавач. *[Суддзя:] Не турбуйцеся вы, княжа! Вузел з пісарам развяжам самі мы, і сёння к ночы пан абніме стан дзявочы, калі вам яна па густу.* Клімковіч. *—Маё ў тым і няшчасце, мусіць, што я доўга думала, што я шчаслівая, — сказала Анька, — пакуль жыццё само мне не падказала іншае... А цяпер і не ведаю, як гэты вузел развязаць.* Далідовіч.

**РАЗВ`ЯЗВАЦЬ Р`УКІ** *каму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Даваць поўную свабоду дзеянняў, вызваляць ад залежнасці, абмежавання ў чым-н. **Ант**.: абразаць крылы *каму, у каго*; завязаць свет *каму* (у 1 знач.); засланяць <увесь> свет *каму* (у 2 знач.); звязваць па руках і нагах *каго*; звязваць рукі *каму*; падразаць крылы *каму.* **РАЗВЯЗАЦЬ РУКІ** *каму. Зак. Вера Засуліч ад тае гутаркі ведала, што Марына Паўлаўна гэтак і зробіць, што яна сама развяжа рукі свайму мужыку.* Зарэцкі. *[Астрамілава:] А ваша Ганна Мікалаеўна? Хіба яна таксама [памерла]?.. [Торгала:] Не, яшчэ цвагае. Але неўміручасць ёй проціпаказана. Хутка развяжа мне рукі.* Крапіва.

**РАЗВ`ЯЗВАЦЬ САБ`Е Р`УКІ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Атрымліваць поўную свабоду дзеянняў. **Сін**.: развязваць сабе свет. **Ант**.: завязваць сабе свет. **РАЗВЯЗАЦЬ САБЕ РУКІ.** *Зак. Пасля цяжка параненых сталі адпраўляць у савецкі тыл і лёгка параненых. Камандаванне развязала сабе рукі. А гэта таксама быў немалаважны доказ таго, што чакаюцца сур'ёзныя баі.* Паўлаў. *[Вронак:] Яго ж ты не кахаеш. Сабе ты рукі развяжы, і мне ты згодай адкажы.* Бачыла.

**РАЗВ`ЯЗВАЦЬ САБ`Е СВ`ЕТ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіць сваё жыццё свабодным, незалежным, радасным. **Сін**.: развязваць сабе рукі. **Ант**.: завязваць сабе свет. **РАЗВЯЗАЦЬ САБЕ СВЕТ.** *Зак. Дзівачка, усё адно ты з ім, п'янчугам і слімаком, жыць не будзеш. Пакуль маладая ды прыгожая — развяжы сабе свет.* Кухараў.

**РАЗВ`ЯЗВАЦЬ ЯЗ`ЫК (-І).** *Незак. Разм.* **1**. *Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Многа гаварыць, станавіцца балбатлівым. **Сін**.: вастрыць язык; даваць волю языку; распускаць язык. *У гэтыя хвіліны Зося развязвала язык, умешвалася ў гутарку маўчарок...* Гартны. **РАЗВЯЗАЦЬ ЯЗЫК (-І).** *Зак. Таксама вечар свае*

*бавы нясе з сабой не менш цікавы і асабліва перад святам, калі, бывала, дзядзька з татам, а з імі часам гэтак сама язык развяжа свой і мама, пачнуць казаць свае ўспамінкі, вясці размову пра старынкі, пра незвычайныя здарэнні і ім даваць тут тлумачэнні.* Колас.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Баючыся расправы, пакарання і пад., пачынаць гаварыць і выдаваць якую-н. тайну. *Васіль спахапіўся. Лішне язык развязваць не варта. Нават перад Надзяй.* Навуменка. **РАЗВЯЗАЦЬ ЯЗЫК (-І).** *Зак.*

**3**. *каму.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымушаць каго-н. разгаварыцца і паведаміць які-н. сакрэт, тайну. **РАЗВЯЗАЦЬ ЯЗЫК (-І).** *Зак. [Шукайла:] Маўчыш, зладзюга? Не хочаш, прызнавацца? Чакай, гэта яшчэ не ўсё! Я развяжу табе язык! Ты ў мяне не толькі загаворыш, спяваць будзеш!* В.Вольскі. *[Вікця:] Што я павінна рабіць? [Рунец:] Язык яму развязаць. Чары, чары трэба ў ход пускаць. Супраць жаночых чар і фашыст не ўстаіць. Дражніся, падбівай, каб больш, балбатаў. Што-небудзь прабалбочацца; а ты на вус матай.* Крапіва.

**4**. *каму.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета, а таксама пры дзейн., які абазначае назвы спіртных напіткаў. Даваць магчымасць гаварыць без баязлівасці, бесцырымонна. **РАЗВЯЗАЦЬ ЯЗЫК (-І).** *Зак. Віно развязала языкі як мужчынам, так і жанчынам. Вясёлы гоман запанаваў за сталом.* Дыла. *Першая чарка языкі не развязала, хаця ні нялоўкасці, ні нязручнасці Максім не адчуваў.* Кудравец.

*РАЗВЯРЭДЗІЦЬ* • **РАЗВЯРЭДЗІЦЬ ДУШУ** *каму, чыю. Зак. да* **ВЯРЭДЗІЦЬ ДУШУ** *каму, чыю.*

**РАЗВЯРЭДЗІЦЬ РАНУ** *каму, чыю. Зак. да* **ВЯРЭДЗІЦЬ РАНУ** *каму, чыю.*

*РАЗГАРНУЦЬ* • **РАЗГАРНУЦЬ КРЫЛЫ.** Зак. да **РАЗГОРТВАЦЬ КРЫЛЫ.**

**РАЗГАРНУЦЬ ПЛЕЧЫ.** Зак. да **РАЗГОРТВАЦЬ ПЛЕЧЫ.**

*РАЗГАРЭЎСЯ* • **СЫР-БОР РАЗГАРЭЎСЯ** *з-за каго, з-за чаго, праз каго.* Гл. сыр-бор.

*РАЗГІНАЦЬ* • **НЕ РАЗГІН`АЦЬ СП`ІНЫ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Старанна і доўга працаваць, рабіць што-н. **Сін**.: гнуць спіну (у 1 знач.); грэць лоб; ліць пот; мазоліць рукі; сем патоў выліць (у 1 знач.); сем патоў сагнаць; цягнуць лямку <*каго, чаго*>; цягнуць ярмо <*каго, якое*>. *Дзень і ноч [Амяльян і жонка] спіны не разгіналі. На паласе начавалі ў жніво, у гумне абедалі ў часе малацьбы.* Шамякін. *Работа ішла напружана. І меліяратары,*

*і калгаснікі працавалі, можна сказаць, не разгінаючы спіны.* Дуброўскі. *Мая дачка ўсё лепш спіны не разгінае, вось і сёння бульбу з гразі калупае, а прыйдзе свята, дык апрануць няма чаго.* Шашкоў.

*РАЗГОНЕ* ● **У РАЗГ`ОНЕ.** *У знач. вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. сукупнасці асоб, адуш. ці канкр. прадметаў. Адпраўлены ў розныя месцы; не на сваім звычайным месцы. *Можа, сапсуецца надвор'е, а можа, машыны ўсе будуць у разгоне і ні адна з іх на станцыю не пойдзе.* Ракітны.

*РАЗГОНІШСЯ* ● **<Д`УЖА> НЕ РАЗГ`ОНІШСЯ**; **НЕ В`ЕЛЬМІ (НЕ Д`УЖА, НЕ Н`АДТА) РАЗГ`ОНІШСЯ.** *Зак. У абаг.-асаб. знач. Разм.* Не многа чаго зробіш. Пра немагчымасць поўнасцю ажыццявіць што-н. пры гэтых умовах. *Бургамістр любіць паслухаць радыё, ну, мы і карыстаемся выпадкам, таксама паслухаем. Але дзе ты ад рукі размножыш усё? Дужа не разгонішся.* Лынькоў. *Ды каб і грош быў — тут не разгонішся...* Брыль. *З тэхнікай, якая была дасюль у меліяратараў, не вельмі разгонішся.* Дуброўскі. *На нішчымніцы не дужа разгонішся.* Макарэвіч. *Грошы плывуць з кішэні незаўважна, хоць я і не раскашую. Ды і маці выдзеліла не вельмі багата, так што не надта разгонішся.* Асіпенка.

*РАЗГОРТВАЦЬ* ● **РАЗГОРТВАЦЬ КРЫЛЫ.** Гл. распраўляць.

**РАЗГОРТВАЦЬ ПЛЕЧЫ.** Гл. распраўляць.

*РАЗДАРОЖЖЫ* ● **НА РАЗДАР`ОЖЖЫ** *быць, знаходзіцца, аказацца* і пад. *Вык. і акал. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У стане сумнення, хістанняў, у нерашучасці перад выбарам чаго-н. **Сін**.: на ростанях. *Мы пачынаем спрачацца. І я пазнаю: яна [сястра] зусім дваістая. Яна зусім на раздарожжы. У яе шмат чужых, не сваіх думак.* Скрыган. *[Бядуля:] Вы пáўпшраеце мяне дарэвалюцыйнага, калі я знаходзіўся на раздарожжы і міжвольна папаў пад уплыў Надсана і сімвалістаў.* Пруднікаў. *На раздарожжы аказалася маладая настаўніца пасля першага года работы ў школе.* «Настаўн. газ.»

*РАЗДЗІРАЦЬ* ● **РАЗДЗІР`АЦЬ ДУШ`У** *каму, чыю. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Выклікаць душэўныя пакуты. **Сін**.: вымотваць жылы (у 2 знач.); вымотваць кішкі *каму* (у 1 знач.); гнаіць душу *чыю, каму*; кроіць сэрца *каму, чыё*; разануць <нажом> па сэрцы *каго*; рваць душу *чыю, каму*; рэзаць па жывому (у 2 знач.); рэзаць сэрца *каму*; сушыць сэрца *чыё, каму*; цягнуць душу з *каго*; цягнуць за душу *каго. Пачулася галашэнне жанчыны. Яно раздзірала душу.* Гурскі. *Душу раздзіралі дзве сілы: тая, што прывязвала да Міцькі, і тая, што да пушчы, да Лісані, да ўсіх лісанцаў прывязвала.* Карамазаў. *Людзі расступіліся перад Алегам*

*Адольфавічам. А каровы раўлі, і роў гэты раздзіраў яму душу.* Герчык. *Душу яго [Інменаву] раздзірала розная выкрывальная літаратура.* «Полымя».

*РАЗДЗЬМУХВАЦЬ* ● **РАЗДЗЬМ`УХВАЦЬ КАДЗ`ІЛА.** *Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Падымаць шум вакол якой-н. справы, учынку і пад. *Калі ж на рыбцы плямку шанцавала разглядзець, ён [Рак] нібы адкрываў планету! Раздзьмухваў гэткае кадзіла!* Э.Валасевіч. **РАЗДЗЬМУЦЬ КАДЗІЛА.** *Зак. Высветліцца ўсё адразу. А галоўнае, убачыш, ці пісаў Дубавец. Калі ён, то пастараецца раздзьмуць кадзіла, і гэта будзе відаць.* Гаўрылкін.

*РАЗДЗЬМУЦЬ* ● **РАЗДЗЬМУЦЬ КАДЗІЛА.** *Зак. да* **РАЗДЗЬМУХВАЦЬ КАДЗІЛА.**

*РАЗДРАЖНІЦЬ* ● **РАЗДРАЖНІЦЬ ГУСЕЙ.** *Зак. да* **ДРАЗНІЦЬ ГУСЕЙ.**

*РАЗЕ* ● **ВА ЎС`ЯКІМ (У К`ОЖНЫМ) Р`АЗЕ.** *Функц. не зам.* **1**. *Акал.* Пры любых абставінах, безумоўна. **Сін**.: ва ўсякім выпадку (у 1 знач.); так ці сяк. *[Ядзя:] Можна і ў дастатку жыць, ды не палюдску. [Федзя:] Ва ўсякім разе прычын пасмяяцца з нас ні ў кога не знойдзецца.* Козел. *Праз бундаўцаў, казаў Арон, сядзелі доўга, гадзіны дзве ці болей, усё спрачаліся, хоць пастанову прынялі вядома ўжо якую: бараніцца ў кожным разе!* Гарэцкі.

**2**. *У знач. пабочн. сл.* Прынамсі. **Сін**.: ва ўсякім выпадку (у 2 знач.); па крайняй меры (у 1 знач.). *Стрэлачнік не адступаўся, бо Сцёпка паказаўся яму чалавекам падазроным, ва ўсякім разе, вартым увагі.* Колас. *Аднаго разу чатыры чалавекі па чарзе пільнавалі выдру шэсць тыдняў і не маглі злавіць. У кожным разе, трэба хоць прагнаць яе.* Маўр.

**3**. *У знач. злучніка або часціцы.* Усё ж, усё-такі. **Сін**.: ва ўсякім выпадку (у 3 знач.); так ці інакш (у 2 знач.). *Стась Курачка быў цяпер больш-менш задаволены сваім жыццём. Магчыма, і тут яго не лічылі за чалавека, але ва ўсякім разе ў вочы не казалі.* Чарнышэвіч. *[Пацяроб] звысака кідаў на ўсіх пагардліва-зачэпістыя погляды, якія мусілі азначаць, што калі ён і не лічыць сябе пераможцам, дык у кожным разе і далёка да таго, каб палічыў сябе за пераможанага.* Зарэцкі.

**НА Р`АЗЕ.** *Абл. Акал Разм.* Пакуль што. *Зараз Ануфры прыпомніў на разе, што трэба плаціць, а тут грош[ай] няма.* Багушэвіч. —*Я ведаў, каму сваё здароўе даверыць, калі са мной што здарыцца, от!.. —Дзякуй на разе! — Зотаў накрыў Крутаяра коўдрай і выйшаў на калідор.* «Полымя».

**НІ Ў `ЯКІМ Р`АЗЕ.** *Акал. Функц. не зам. Ужыв. у адмоўн. ск. (для ўзмацнення адмоўя).* Ні пры якіх умовах, абставінах. **Сін**.: ні божа

мой (у 2 знач.); ні за што; ні за што на свеце; ні за якія грошы; ні ў жысць; ніякімі сіламі. *Думкі, якія я збіраюся тут выказаць, я ні ў якім разе не выстаўляю як догму.* Крапіва. *Адцягнулі бандыта за сотню крокаў. Замацавалі так, каб ён ні ў якім разе не мог развязацца, і пакінулі яго.* Маўр.

**У ТАК`ІМ Р`АЗЕ.** *Акал. Разм.* Пры такіх абставінах; калі гэта так. *—Я ад вас не адступлюся, покі не адкажаце. —Ну, што ў такім разе я ніколі не адкажу вам, бо мне вельмі будзе цяжка, калі вы адступіцеся ад мяне.* Колас. *У нас ёсць весткі, што на вечарынцы ёсць хто-ніхто з рэвальверамі... У такім разе я прымушаны абшукаць хлопцаў.* Галавач. *—Мабыць, новага брыгадзіра сынок, — сказаў ён, — у такім разе можна без пропуску...* Чарнышэвіч.

*РАЗЖАВАЦЬ* ● **РАЗЖАВАЦЬ І Ў РОТ ПАКЛАСЦІ** *каму.* Зак. да **РАЗЖОЎВАЦЬ І Ў РОТ КЛАСЦІ** *каму.*

*РАЗЖОЎВАЦЬ* ● **РАЗЖ`ОЎВАЦЬ І (ДЫ) У Р`ОТ КЛ`АСЦІ** *каму. Незак. Разм. Жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі падрабязна тлумачыць што-н. **Сін**.: ліць святло *на што. — Мне давялося яму асобна тлумачыць, разжоўваць і ў рот класці, што гэта значыць,— пацвердзіў Сяргей.* Гурскі. *—Усё ж мужчына ўжо наш Толя... —Дык?— наступала жонка. —Дык што, разжоўваць трэба ды ў рот класці, — Васіль нібы і злавацца пачынаў.* Кавалёў. **РАЗЖАВАЦЬ І (ДЫ) У РОТ ПАКЛАСЦІ** *каму. Зак. [Матыль:] Як жа, як жа?.. Усё вам разжуй і ў рот пакладзі. Не, каб самім праявіць ініцыятыву.* Зуб. *Кожнаму разжуй і ў рот пакладзі: чаго гэта, чаго тое, а чаму не гэтак, а чаму не так.* Жарнасек.

*РАЗЛАДУ* ● **ЯБЛЫК РАЗЛАДУ.** Гл. яблык.

*РАЗЛАЖЫЦЬ* ● **РАЗЛАЖЫЦЬ ПА ПАЛІЧКАХ** *што. Зак. да* **РАСКЛАДВАЦЬ ПА ПАЛІЧКАХ** *што.*

*РАЗЛІВАДА* ● **НЕ РАЗЛІВАДА** *з кім. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі здружаныя, неразлучныя. **Сін**.: вадой не разальеш *каго*; звязаў чорт вяровачкай *каго. Шурка з Нінай маёй не разлівада...* Брыль. *Мы з ёю сябры — не разлівада.* Караткевіч. *На пяць гадоў яны сталі не разлівада. Шмат каго здзіўляла гэтая дружба — надта ж living рознымі людзьмі былі яны.* Блакіт. *Васіль Муранкоў не разлівада з Мішам былі.* Рубанаў.

*РАЗЛІК* ● **НЕ ІСЦІ Ў РАЗЛІК.** Гл. ісці.

*РАЗЛІКАЎ* ● **ЗВЯДЗЕННЕ РАЗЛІКАЎ** <*з кім*>. Гл. звядзенне.

*РАЗЛІЎНОЕ* ● **МОРА РАЗЛІЎНОЕ.** Гл. мора.

*РАЗЛІЦЬ* ● **ВАДОЙ НЕ РАЗЛІЦЬ** *каго.* Гл. разальеш.

*РАЗЛЮЛІ* ● **РАЗЛЮЛІ-МАЛІНА.** *Мн. не ўжыв. Праст. Адабр.* **1**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр., абстр. прадмета ці (радзей)

асобы. Вельмі добры, надзвычайны. **Сін**.: адным словам[1]; без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); будзь-будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); кругом сто дваццаць; на славу (у 2 знач.); на ўсе рукі; на ўсе сто (у 3 знач.); на яць (у 2 знач.); па крайняй меры (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога; першай гільдыі (у 1 знач.); першай рукі (у 1 знач.); першы клас; першы сорт; рэдкай рукі; слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.); як яечка. —*Лепшага папа й не сасніць! — Поп — што твая разлюлі-маліна!* Колас. *Што за ўдалая мясціна! Разлюлі-люлі-маліна!* Крапіва.

**2**. *Акал.* Вельмі добра, надзвычайна. **Сін**.: будзь-будзь (у 1 знач.); будзь здароў (у 1 знач.); дай бог (у 1 знач.); дай бог кожнаму (у 2 знач.); дзякуй богу (у 1 знач.); за маё-маё (у 1 знач.); за маліну (у 2 знач.); з бляскам (у 1 знач.); кум каралю <і сват міністру> (у 3 знач.); люба-дарага; на дзіва (у 2 знач.); на поўнае вока; на пяць з плюсам; на славу (у 1 знач.); на ўсе сто (у 2 знач.); на яць (у 1 знач.); слава богу (у 1 знач.); хвала богу (у 1 знач.); хоць куды (у 2 знач.); што трэба (у 1 знач.); як не трэба лепш. —*Зялёную грай!.. —Не слухай яго... Вальс-слёзы сыграй нам... Эх, разлюлі-маліна...* Каваль.

*РАЗМАЗАЦЬ* • **ПА СЦЯНЕ РАЗМАЗАЦЬ** *каго. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Сурова распраўляцца з кім-н., караць каго-н. **Сін.**: даваць гарту *каму* (у 2 знач.); даваць дыхту (у 2 знач.); даваць жару (у 2 знач.); даваць у косці *каму* (у 2 знач.); даваць у скуру *каму*; даваць чапаласу *каму* (у 2 знач.); даваць чосу *каму* (у 2 знач.); даваць па зубах *каму*; даваць па карку *каму*; задаваць фефару *каму*; мыліць шыю *каму* (у 1 знач.); намяць бакі *каму*; прапісаць іжыцу *каму*; спусціць скуру *з каго* (у 1 знач.); усыпаць гарачых *каму*; чартоў ганяць. **ПА СЦЯНЕ РАЗМАЗАЦЬ** *каго. Зак. Слухай... яна кабета маладая, граматная... дойдзе да прэзідэнта, дык той нас з табой па сцяне размажа... І фірму тваю нацыяналізуе...* Шамякін. *Смаркач, я цябе па сцяне размажу.* Казько. *Каб я такое з сваім Сашам сатварыла, ён бы па сцяне мяне размазаў.* Кадзетава.

*РАЗМАТАЦЬ* • **РАЗМАТАЦЬ КЛУБОК.** Гл. разблытваць.

*РАЗМАХВАЦЬ* • **РАЗМАХВАЦЬ ПАСЛЯ БОЙКІ КУЛАКАМІ.** Гл. махаць.

*РАЗМЕННАЯ* • **РАЗМЕННАЯ МАНЕТА.** Гл. манета.

*РАЗМЕНЬВАЦЦА* • **РАЗМ`ЕНЬВАЦЦА НА ДР`ОБЯЗІ.** *Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Займацца чым-н. другарадным, неістотным; растрачваць сілы, здольнасці на неістотнае. *Містэр*

*Лаяна не любіў разменьвацца на дробязі і лічыў, што весці тыя ці іншыя спрэчкі з радавым грузчыкам больш да твару яго босам, чым яму самому.* Лынькоў. *Радасна пазнаваць яшчэ адну краіну, яшчэ адзін народ. Толькі захоўваць яснасць галавы і не разменьвацца на дробязі — на святах гэта трэба памятаць.* Брыль. *У паэзіі, як і ў спорце, ёсць мера і надзея «трэцяй спробы». Я маю на ўвазе цяжар задачы. Сапраўды, ці варта турбаваць пяро, каб разменьвацца на дробязі?* Вялюгін.

*РАЗМОТВАЕЦЦА* • **КЛУБОК РАЗМОТВАЕЦЦА.** Гл. клубок.

*РАЗМОТВАЦЬ* • **РАЗМОТВАЦЬ КЛУБОК.** Гл. разблытваць.

*РАЗРАДЖАЕЦЦА* • **АТМАСФЕРА РАЗРАДЖАЕЦЦА** *<дзе>.* Гл. атмасфера.

*РАЗРАДЖАЦЬ* • **РАЗРАДЖ`АЦЬ АТМАСФ`ЕРУ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паслабляць напружанне ў якіх-н. абставінах. *Мішку гэтае дзядзькава хрышчэнне пітва рассмяшыла. А нішто так не разрэджвае атмасферу, як дзіцячы смех.* «Полымя». **РАЗРАДЗІЦЬ АТМАСФЕРУ.** *Зак. Паўза зацягнулася. Здаецца, ніхто яшчэ не гатовы гаварыць. Гэта выгадна — пачаць першаму і «разрадзіць атмасферу».* Шамякін. *[Дзевяцень] не збіраўся гаварыць нешта, але, сам таго не жадаючы, мусіць, каб разрадзіць атмасферу, раптам пачаў на ўсе лады хваліць Сурмілу як маладога адукаванага спецыяліста, кандыдата навук, добрага арганізатара...* Блакіт.

*РАЗРАДЗІЦЬ* • **РАЗРАДЗІЦЬ АТМАСФЕРУ.** *Зак. да* **РАЗРАДЖАЦЬ АТМАСФЕРУ.**

*РАЗРЫВАЕЦЦА* • **ДУША РАЗРЫВАЕЦЦА <НА ЧАСТКІ>** *чыя, у каго.* Гл. душа.

*РАЗРЫВАЙСЯ* • **Х`ОЦЬ НА КАВ`АЛКІ (НА Ч`АСТКІ) РАЗРЫВ`АЙСЯ (РАССЫП`АЙСЯ).** *Толькі ў заг. л. Акал. Разм.* Нягледзячы ні на якія старанні, намаганні; што ні рабі (не атрымліваецца што-н.). **Сін**.: хоць памры; хоць разарвіся *каму* (у 2 знач.); хоць ты крыжам ляж; хоць <ты> лопні (у 1 знач.); хоць ты што *каму. І як ні біся, ні старайся, хоць на кавалкі разрывайся, прычэпку [пан] знойдзе і аблае, яшчэ й пад носам наківае.* Колас. *Дзе тут управішся... І ў калгас трэба хадзіць, і свае соткі зеллем пазаганяла... Хоць на часткі разрывайся...* М.Капыловіч. *—Ці-і-ха, каб вы скіслі! — крыкнула Агата. —Згатаваць не даюць, хоць ты тут на кавалкі рассыпайся! — і адагнала іх [дзяцей] вілачнікам ад прыпечка.* Бядуля.

*РАЗРЫВАЦЦА* • **РАЗРЫВ`АЦЦА (РВ`АЦЦА) НА Ч`АСТКІ (НА КАВ`АЛКІ).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.

Старацца адразу выконваць мноства розных спраў, даручэнняў і пад. **Сін**.: вылузвацца са скуры; выцягвацца ў нітку; зямлю грызці (у 1 знач.); разбівацца ў блін; разбівацца ў дошку. *Мікульскі схуднеў страшэнна. Ён разрываўся на часткі — дзе на ўсё браць час?* Місько. *Касцюшку проста не пашанцавала. Дый сам вінаваты. Разрываўся на часткі, вучыўся, друкаваўся ў кожным нумары.* Навуменка. *Дарэктар рвецца на кавалкі. Зламаў на блясе ўжо дзве палкі, дзярэцца нема, лямантуе, — такі там гвалт — хай бог ратуе.* Колас. **РАЗАРВАЦЦА НА ЧАСТКІ (НА КАВАЛКІ).** *Зак. Надзі добра: старая заўсёды дома. І дзяцей накорміць, і гаспадарка дагледжана. Пойдзе і прыйдзе на ўсё гатовае. Гэта не тое, што некалі Люба гатова была на кавалкі разарвацца...* Васілевіч.

*РАЗРЫВАЦЬ* ● **РАЗРЫВАЦЬ ДУШУ** *чыю, каму.* Гл. рваць.

**РАЗРЫВАЦЬ НА КАВАЛКІ** *каго.* Гл. рваць.

*РАЗРЭЗЕ* ● **У РАЗР`ЭЗЕ** *якім, чаго. Акал. Разм.* З якіх-н. пазіцый. *Я ўжо так і думаў: буду рабіць на полі, на шашу не выткнуся, год прамчыць, і правы забяру. Чакаю, што і Мурашка ў такім разрэзе петрыць.* Ярашэвіч.

*РАЗУЙ* ● **РАЗ`УЙ В`ОЧЫ.** *Зак. Толькі ў гэтай форме. Вык. Праст. Груб.* Паглядзі ўважліва, як трэба. **Сін**.: браць <свае> вочы ў жменю. *[Мама — схапіла статуэтку і тыцкае яму пад нос:] Гэта брыда — цывілізацыя?.. Што гэта такое? Назаві мне гэта! [Тата:] Разуй вочы! Гэта — дзяўчына, маладосць!* Макаёнак. *Разуй свае вочы, лявак — палез, як затычка ў пляшку, а от пабачыш, як ты назад вылезеш!..* Кусянкоў.

*РАЗУМЕЕЦЦА* ● **САМО САБОЙ <РАЗУМЕЕЦЦА>.** Гл. само.

*РАЗУЦЦА* ● **ЯК (ШТО) Б`ОСАМУ РАЗ`УЦЦА.** *У безас. ужыв. Разм. Ужыв. пры дзеясл.-інф. зак. тр.* Вельмі лёгка, проста (зрабіць што-н). **Сін**.: за адну шчаку; прасцей паранай рэпы; прасцей простага; раз плюнуць <*каму, для каго*>; як плюнуць. *Ды якая там, здавалася, небяспека, жылка тоненькая, смеху варта, у вадзе і не бачна яе, парваць яму [карпу] такую што босаму разуцца.* Казько.

*РАЗЫ* ● **Т`ЫЯ РАЗ`Ы.** *Абл. Акал. Разм.* Часам, у некаторых выпадках; бывала. **Сін**.: другім разам (у 1 знач.); іншы раз; сяды-тады; то тады то сяды. *Засне ён [Міхась] тыя разы, а яны [бацькі] — давай шарыць грошы па кішэнях у яго ці ў кнігах.* Брыль. *Іду тыя разы ўзмежкам, цёмначы, нясу... ну, хлеба бохан ці бульбы мяшок, ці сала добры аполак, а сам душою дрыжу...* «Маладосць».

*РАЗЫГРАЦЬ* ● **РАЗЫГРАЦЬ КАМЕДЫЮ.** *Зак. да* **РАЗЫГРЫВАЦЬ КАМЕДЫЮ.**

**РАЗЫГРАЦЬ КАРТУ** *чыю. Зак. да* **РАЗЫГРЫВАЦЬ КАРТУ** *чыю.*

*РАЗЫГРЫВАЦЬ* ● **РАЗ`ЫГРЫВАЦЬ КАМ`ЕДЫЮ.** *Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыкідвацца перад кім-н., крывадушнічаць. **Сін**.: крывіць душой <*перад кім, перад чым, для каго*>; ламаць камедыю. *Пыкаў цэліўся ў Солапа... —Адставіць! — Мікульскі загарадзіў выхад з сенцаў дзецям. —Ты што — здурнеў?! —Пыкаў бліснуў на яго вокам, усміхнуўся. Разыгрываў камедыю?* Місько. **РАЗЫГРАЦЬ КАМЕДЫЮ.** *Зак.*

**РАЗ`ЫГРЫВАЦЬ К`АРТУ** *чыю. Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Спекуляваць на якіх-н. ускладненнях паміж кім-н. *Адміністрацыя Рэйгана на працягу доўгага часу спрабавала разыгрываць так званую кітайскую карту.* «Звязда». **РАЗЫГРАЦЬ КАРТУ** *чыю. Калі стралялі ў Прыднястроўі, Літве, Таджыкістане, мы маўчалі. У Грузіі – таксама. Цяпер вунь які націск на Украіну, каб і там разыграць карту з рускамоўным насельніцтвам, – зноў ціха ў нас.* Макаловіч.

*РАЗЫШЛІСЯ* ● **ДАРОГІ РАЗЫШЛІСЯ** *чые, каго, у каго.* Гл. дарогі.

*РАЗЯВІЦЬ* ● **РАЗЯВІЦЬ РОТ.** *Зак. да* **РАЗЯЎЛЯЦЬ РОТ.**

*РАЗЯЎЛЯЦЬ* ● **РАЗЯЎЛ`ЯЦЬ Р`ОТ.** *Незак. Прас. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Пачынаць гаварыць што-н., выказваць сваю думку. **Сін**.: адкрываць рот; раскрываць рот (у 1 знач.). *– Зэер гут! – фашыст лапоча. – Зэер гут! Майн лібэр гот! – Як той конь іржэ, рагоча, разяўляе хайла – рот.* Астрэйка. **РАЗЯВІЦЬ РОТ.** *Зак. Калі пасмее разявіць рот, каб удаць мяне, то я яго разам з капцамі ўтаплю ў Нёмане.* Колас. *—Няшчасце, Андрэй Якаўлевіч, — не давай нікому рот разявіць Журавінка.* Лобан.

**2**. Не згаджацца, рэзка пярэчыць. **Сін**.: раскрываць рот (у 2 знач.). *Хто крычыць, што не патрэбны яслі?.. Некаторым і не трэба крычаць, і няма чаго ім крычаць, а яны ўсё адно разяўляюць рот. Чаго?* Мурашка. **РАЗЯВІЦЬ РОТ.** *Зак. —Ніна! Не пускай яе на лаву. Няхай стаіць, старая карга! —Бач ты! Маладуха знайшлася... Рот разявіла.* Кобец.

**3**. Крайне здзіўляцца, быць моцна ўражаным. **Сін**.: дзіву давацца; не верыць <сваім> вачам; не даваць веры <сваім> вачам; рабіць вялікія вочы; разводзіць рукамі. *– Я пахаваў сваю маладосць: учора пайшоў мне трыццаць першы год. – А-а-а, – разяўляе рот крамнік.* Мурашка. **РАЗЯВІЦЬ РОТ.** *Зак. Як стаў прыстукваць ён атопкам, аж рот разявілі багі.* «Тарас на Парнасе».

**4**. Быць крайне няўважлівым, рассеяным. **Сін**.: лавіць мух (у 2 знач.); лічыць варон (у 1 знач.). *Давай сюды ўсе рыдлёўкі — капаць будзем. Жыва. Нечага рот разяўляць.* Быкаў. **РАЗЯВІЦЬ РОТ.** *Зак.*

*Разявіў рот [Іван] і бегаў за бацькам, а нехта выцягнуў усё з кішэні.* Кудравец.

**5**. Зазяваўшыся, пераставаць рабіць што-н. **Сін**.: развешваць вушы. *Наказ вам, вожыкі-браты: не разяўляйце вы раты, як хочуць вас зрабіць узорам дабраты, асцерагайцеся лісіных штучак, каб не застацца без калючак.* Крапіва. **РАЗЯВІЦЬ РОТ**. *Зак. —Што раты разявілі?.. — закамандаваў з ракі цяпер яму, Алёшу, Баганчык.* Пташнікаў.

**6**. *на што.* Прагнуць, хціва жадаць чаго-н. *Былі таварышы, што на наша дабро, на наш набытак ужо разяўлялі раты.* Колас. *Толькі і знаюць, што разяўляюць рот на чужое!* Мележ. **РАЗЯВІЦЬ РОТ** *на што. Зак. Разявіў рот на прэмію... Чакай, галубок!.. Тут ёсць людзі больш дастойныя, ды яшчэ без прэміі ходзяць.* Крапіва.

*РАЙ* ● **ЗЯМН`Ы Р`АЙ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Адабр.* Незвычайна прыгожая мясціна, дзе можна шчасліва і бесклапотна жыць. *Пасля безупынных дажджоў жыццё ў цёплых сухіх хатах здавалася зямным раем.* Жураўскі. *—Зямны рай! — захапляўся Мікалай Мікалаевіч, азіраючыся па баках.* Шашкоў. *Ва Урочышчы Пасека, дзе мы цяпер вячэраем, дык наогул зямны рай!* Пашкоў.

**НА ЧУЖЫМ ГАРБУ Ў РАЙ ЕХАЦЬ.** Гл. ехаць.

*РАК* ● **КАЛ`І (ЯК) Р`АК <НА ГАР`Ы> СВ`ІСНЕ.** *Акал. Ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр. Разм. Іран.* Ніколі ці невядома калі (будзе, павінна адбыцца што-н.). **Сін**.: на грэчаскія календы; на святое ніколі; на святыя нігды; пасля дожджыку ў чацвер. *Толькі калі гэта будзе. Калі рак на гары свісне?* Левановіч. *—Я магу кінуць піць. — Калі? Як рак на гары свісне? —Як ты загадаеш.* Калодзежны. *Ты сказала прыйдзеш — як рак свісне...* Танк. *—Яны заплоцяць, — крывячыся ад болю, супакойвае нас Аляксандр Карпавіч, — за ўсё заплоцяць... —Ага ж, заплоцяць, калі рак свісне.* Сяркоў.

*РАКАМ* ● **ДА МАСКВЫ РАКАМ НЕ ПЕРАСТАВІШ** *каго.* Гл. пераставіш.

*РАКАЎ* ● **ПЯЧЫ РАКАЎ.** Гл. пячы.

*РАКІ* ● <u>Ведаць,</u> **ДЗЕ Р`АКІ ЗІМ`УЮЦЬ.** *У знач. дадан. ск. Разм.* (Ведаць) як паступіць найлепш, больш выгадна. Пра хітрасць, спрыт і пад. **Сін**.: <усе> хады і выхады. *—Начальства не спіць, — Андрэй паківаў пальцам, — яно ведае, дзе ракі зімуюць...* Гартны.

<u>Пазнаць, уведаць,</u> **ДЗЕ Р`АКІ ЗІМ`УЮЦЬ.** *У знач. дадан. ск. Разм.* **1**. (Пазнаць) што такое сапраўдныя цяжкасці, гора ў жыцці. **Сін**.: пачым фунт ліха. *Ну што, выхадзілася, нябога? Ну, нябось, пазнала, дзе ракі зімуюць? А што, не казала я?!* Быкаў. *Гэта цяпер.. табе ўсё здаецца лёгкім. А вот толькі пачні [рабіць дачу], тады ты*

*ўведаеш, дзе ракі зімуюць.* Гігевіч.

**2**. (Пазнаць) што такое сапраўдная кара, суровае пакаранне. Выказванне пагрозы. *[Паланея:] Я табе яшчэ ўспомнюся. Хіба я жыва не буду. [Даміцэля:] Пазнаеш ты ў мяне, дзе ракі зімуюць!* Купала. *Што ты, Ганна, я яшчэ паганяю яго, чорта, пазнае, дзе ракі зімуюць.* Стадольнік. .

**ПАКАЗАЦЬ ДЗЕ РАКІ ЗІМУЮЦЬ** *каму.* Гл. паказаць.

*РАКОЙ* • **ЛІЦЦА РАКОЙ.** Гл. ліцца.

*РАКУ* • *Карысці* **ЯК З РАКУ СМАКУ.** Гл. смаку.

*РАМАНСЫ* • *Фінансы* **ПЯЮЦЬ РАМАНСЫ.** Гл. пяюць.

*РАМКАХ* • **ТРЫМАЦЦА Ў РАМКАХ** *чаго.* Гл. трымацца.

*РАНА* • **Р`АНА ЦІ П`ОЗНА.** *Акал. Функц. не зам. Часцей ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр.* Калі-небудзь, у бліжэйшым будучым і абавязкова (будзе што-н.). **Сін**.: гэтымі днямі (у 1 знач.); на <гэтых> днях (у 1 знач.); з дня на дзень (у 1 знач.); не сёння-заўтра; не цяпер дык у чацвер. *Сын вырас. Рана ці позна ён пойдзе з сямі — гэта факт.* Карпаў. *Дзіва, як ён [Антон] не можа зразумець, што немцы ніколі не даруюць яму яго партызанства і рана ці позна павесяць з біркай на шыі.* Быкаў.

*РАНЕЙ* • **ЛЕЗЦІ РАНЕЙ ЗА БАЦЬКУ Ў ПЕКЛА.** Гл. лезці.

*РАНЖЫР* • **ПАД АДЗ`ІН РАНЖ`ЫР.** *Акал. Функц. не зам.* У адной катэгорыі, без уліку розніцы паміж кім-н. (ісці, трапляць і пад.). *Няма чаго, любілі сябе паказаць панамі, то няхай і цяпер ідуць разам з панамі пад адзін ранжыр.* Каваленка.

*РАНКУ* • **АД Р`АНКУ <І> ДА Р`АНКУ.** *Акал. Разм.* Цэлымі днямі, на працягу сутак (рабіць што-н.). *Сам жа староста ад ранку да ранку свой непакой сунімаў пагулянкай.* Дубоўка. *Хор анёлаў там ад ранку і да ранку аж грыміць.* Крапіва. *Табе яшчэ ў люльцы ад ранку да ранку драмаць і даслухаць сваю калыханку.* Зарыцкі.

*РАННІ* • **З МАЛАДЫХ ДЫ РАННІ.** Гл. маладых.

**МАЛАДЫ ДЫ РАННІ.** Гл. малады.

*РАННЯЯ* • **РАННЯЯ ПТУШКА.** Гл. птушка.

*РАНУ* • **ВЯРЭДЗІЦЬ РАНУ** *каму, чыю.* Гл. вярэдзіць.

**НАСЫПАЦЬ СОЛІ НА РАНУ.** Гл. насыпаць.

**СЫПАНУЦЬ СОЛІ НА СВЕЖУЮ РАНУ.** Гл. сыпануць.

**СЫПАЦЬ СОЛЬ НА <СВЕЖУЮ> РАНУ.** Гл. сыпаць.

*РАНЫ* • **ЗАГОЙВАЦЬ РАНЫ** *чаго, каго.* Гл. загойваць.

**ХОЦЬ <ТЫ> ДА РАНЫ КЛАДЗІ** *каго.* Гл. кладзі.

*РАП'ЁМ* • **КІДАЦЦА РАП'ЁМ У ВОЧЫ** *каму.* Гл. кідацца.

*РАСА* • **РАС`А В`ОЧЫ ВЫЯД`АЕ** *каму. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. нешчаслівы, жыве ў горы, нядолі. *З дня на дзень бядак чакае ўсё*

*сонца. Раса вочы выядае бясконца.* Купала. *Ды ў вершах Каратынскага і не было нічога падданніцкага — толькі скарга на нейрадлівы пясочак, цёмную святліцу, на тое, што раса выядае вочы.* Мальдзіс. *—Ды якога ж чорта лысага ты пёрся да мяне? —А я мо і не да вас, я не хавацца... —Ах, якія мы ганарлівыя, у нас усяленскае сумленне жыве, у нас усяленскае сумленне загаварыла. Нам раса вочы выела. Мы ў адказе за ўсю зямлю. Мы кідаемся, мы шукаем...* Казько.

*РАСІНКІ* • **МАКАВАЙ РАСІНКІ Ў РОЦЕ НЕ БЫЛО** *ў каго.* Гл. было.

*РАСКІДАЦЬ* • **РАСКІД`АЦЬ Р`ОЗУМАМ (ГАЛАВ`ОЙ, МАЗГ`АМІ).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Абдумваць што-н., прыкідваць у думках. **Сін**.: варушыць галавой; варушыць мазгамі; круціць мазгамі. *Міхал мала раскідаў розумам — як і што будзе ўсё рабіцца. Ён толькі цвёрда намерыў зрабіць.* Чорны. **РАСК`ІНУЦЬ Р`ОЗУМАМ (ГАЛАВ`ОЙ, МАЗГ`АМІ).** *Зак. Ты вось тут паспрабуй як след галавой раскінуць: і кусты знойдзеш, церабі колькі хочаш, абы ахвота, абы галава на плячах.* Лынькоў. *—Ты ж развеж, Юзік, раскінь мазгамі: якая нам радасць, што нехта дужэйшы, чым мы? — хоць немцаў узяць, хоць Амерыку гэту, невядомую... — пачаў пераконваць таго Пахом.* Бондар.

*РАСКІНУЦЬ* • **РАСКІНУЦЬ РОЗУМАМ.** *Зак.* да **РАСКІДАЦЬ РОЗУМАМ.**

*РАСКЛАДАЦЬ* • **РАСКЛАД`АЦЬ (РАСКЛ`АДВАЦЬ) ПА ПАЛІЧКАХ** *што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Размяшчаць што-н. у пэўнай паслядоўнасці, у прадуманым парадку. *За доўгія гады выкладчыцкай работы ён [Высоцкі] прызвычаіўся да яснасці, як бы навучыўся раскладаць па палічках думкі, не церпячы, адмятаючы супярэчнасці.* Навуменка. *А Мароз вось не раскладваў нічога на палічках — проста чытаў вучням і сам убіраў у сябе ўсё спрэс, душой убіраў.* Быкаў. **РАСКЛАСЦІ (РАЗЛАЖЫЦЬ) ПА ПАЛІЧКАХ** *што. Зак. І толькі цяпер, на адлегласці, калі я здолела спакойна раскласці па палічках, я пераканалася, што часта, вельмі часта памыляюся, прымаю жаданае за сапраўднае.* Лобан. *Усё ў яго [Вераб'іхіна] раскладзена па палічках: калі каго выслухаць, каму што сказаць, што патрабаваць з аднаго, другога.* «Полымя». *[Башлыкоў:] Прачытаеш — і ўсё ясна становіцца!.. Як двойчы два. Усё — па палічках разлажыў! Гэта — сюды, гэта — туды!* Мележ.

*РАСКЛАДВАЦЦА* • **РАСКЛ`АДВАЦЦА НА ПАЛ`ІЧКАХ.** *Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Размяшчацца ў пэўнай паслядоўнасці, у прадуманым парадку. *Быццам толькі яму аднаму вядомыя ўсе вялікія і малыя ісціны, быццам ўсё, што кажа ён, не*

*можа выклікаць ніякіх сумненняў. Гэтак проста і мудра ўсё раскладваецца па палічках.* Блакіт.

*РАСКЛАДВАЦЬ* ● **РАСКЛАДВАЦЬ ПА ПАЛІЧКАХ** *што.* Гл. раскладаць.

*РАСКЛАСЦІ* ● **РАСКЛАСЦІ ПА ПАЛІЧКАХ** *што. Зак. да* **РАСКЛАДАЦЬ ПА ПАЛІЧКАХ** *што.*

*РАСКОЛВАЕЦЦА* ● **ГАЛАВА РАСКОЛВАЕЦЦА** *ў каго.* Гл. галава.

*РАСКОЛІНУ* ● **ДАЦЬ РАСКОЛІНУ.** Гл. даць.

*РАСКРЫВАЕЦЦА* ● **ДУША РАСКРЫВАЕЦЦА** *чыя.* Гл. душа.

*РАСКРЫВАЦЬ* ● **РАСКРЫВАЦЬ ВОЧЫ** *каму <на каго, на што>.* Гл. адкрываць.

**РАСКРЫВ`АЦЬ Д`УЖКІ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выяўляць што-н. таемнае, рабіць невядомае вядомым. **РАСКРЫЦЬ ДУЖКІ.** *Зак. Воля ваша, дарагія таварышы. Можаце не зацвярджаць. Не зацвярджайце! Але я крышку забягу наперад... Ці, як гавораць, раскрыю дужкі. Вы бачыце, што тут ёсць нейкія асабістыя меркаванні. Нават помста Невяроўскай.* Грамовіч.

**РАСКРЫВ`АЦЬ Р`ОТ.** *Незак. Разм. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Пачынаць гаварыць што-н., выказваць свае думкі. **Сін**.: адкрываць рот; разяўляць рот (у 1 знач.). **РАСКРЫЦЬ РОТ.** *Зак. Замоўч, божая гніда... Толькі рот паспрабуй раскрыць, не ўбачыш ты болей свету.* Лынькоў. *—Хваліўся, а сам на рамізніцкага каня ўссеў,— перабіў Лукашэвіча Сцяпан і болей не даў яму рота раскрыць.* Грахоўскі.

**2**. Не згаджацца, рэзка пярэчыць. **Сін**.: разяўляць рот (у 2 знач.). *Жыццё кароткае, а мы яго яшчэ табе ўкароцім... Гэта табе прысяга — не раскрываць нідзе свайго паганага рота...* Лынькоў. **РАСКРЫЦЬ РОТ.** *Зак. [Андрэй:] І нічога ты не бойся. Няхай толькі хто-небудзь рот раскрые...* Матукоўскі.

**РАСКРЫВАЦЬ <СВАЕ> КАРТЫ** *каму.* Гл. адкрываць.

**РАСКРЫВАЦЬ <СВАЁ> СЭРЦА** *каму, перад кім.* Гл. адкрываць.

**РАСКРЫВАЦЬ <СВАЮ> ДУШУ** *каму, перад кім.* Гл. адкрываць.

*РАСКРЫВАЮЦЦА* ● **ВОЧЫ РАСКРЫВАЮЦЦА** *ў каго, каму <на што>.* Гл. вочы.

*РАСКРЫТЫ* ● **<УСЕ> КАРТЫ РАСКРЫТЫ** *чые.* Гл. карты.

*РАСКРЫЦЬ* ● **РАСКРЫЦЬ ВОЧЫ** *каму <на каго, на што>.* Гл. адкрываць.

**РАСКРЫЦЬ ДУЖКІ.** *Зак. да* **РАСКРЫВАЦЬ ДУЖКІ.**

**РАСКРЫЦЬ РОТ.** *Зак. да* **РАСКРЫВАЦЬ РОТ.**

**РАСКРЫЦЬ <СВАЕ> КАРТЫ** *каму. Зак. да* **РАСКРЫВАЦЬ <СВАЕ> КАРТЫ** *каму.*

**РАСКРЫЦЬ <СВАЁ> СЭРЦА** *каму, перад кім. Зак.* да **РАСКРЫВАЦЬ <СВАЁ> СЭРЦА** *каму, перад кім.*

**РАСКРЫЦЬ <СВАЮ> ДУШУ** *каму, перад кім. Зак.* да **РАСКРЫВАЦЬ <СВАЮ> ДУШУ** *каму, перад кім.*

*РАСКУСІЦЬ* ● **РАСКУС`ІЦЬ АР`ЭШАК.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адолець што-н. цяжкае, вырашыць якое-н. складанае пытанне. *—Асвойваць магутны дваццаціпяцітонны грузавік-самазвал,— усхвалявана паведаміў Асадчы. —Гэты арэшак не так проста раскусіць.* Гурскі. *Цікава, чым усё гэта скончыцца?.. Гэты арэшак не так лёгка раскусіць. – Я гэты арэшак раскушу.* «Полымя».

*РАСПАРАДЖЭННЕ* ● **У РАСПАРАДЖ`ЭННЕ** *каго, чаго, чыё. Акал. Функц. не зам.* Для выкарыстання кім-н. ці пад чыё-н. кіраўніцтва. *Вось, калі ласка, у ваша распараджэнне ўвесь ванны пакой. Тут і патрэбныя вам шчоткі, і вада, і мыла.— усё да вашых паслуг.* Лынькоў. *[Прохару], смеючыся, растлумачылі, што конь ягоны рэквізаваны, паступае ў распараджэнне германскай арміі.* Дайнека.

*РАСПАРАДЖЭННІ* ● **У РАСПАРАДЖ`ЭННІ** *каго, чыім. Дап. Функц. не зам.* У каго-небудзь. *Толік зірнуў на свой наручны гадзіннік: — У нашым распараджэнні... пятнаццаць мінут.* Ярашэвіч. *Калі яна [Соня] пазнілася, куляй улятала ў дом, паведамляла на хаду, што ў распараджэнні нашым пятнаццаць ці дваццаць хвілін, і я, спяшаючыся, даставаў свой лепшы гарнітур.* Ракітны.

*РАСПАСЦЁРТЫМІ* ● **З РАСПАСЦЁРТЫМІ РУКАМІ.** Гл. рукамі.

*РАСПЕРАЖЫ* ● **Х`ОЦЬ ЖЫВ`ОТ (П`УЗА, П`УП) РАСПЕРАЖ`Ы (РАЗВЯЖ`Ы).** *Толькі ў заг. л Акал. Праст.* Уволю, колькі хочаш (есці, з'есці). **Сін**.: ад пуза (у 1 знач.); да адвалу; еш не хачу *чаго*; за трох дурных; колькі душа жадае; колькі ўлезе (у 1 знач.); на поўную губу (у 1 знач.); на ўсю губу; не ў свой дух; хоць расперажыся; як дурны на памінках; як на дзяды (у 1 знач.); як не ў сябе; як у прорву. *Выпіў цесць і з'еў на славу, хоць жывот расперажы.* Колас. *Запрасіў [Славік] усіх у буфет. Частаваў з купецкім размахам. Талерку эскімо. Ешце хоць пуза расперажыце.* *Паўкіло «мішак».* Шамякін. *Адным словам, тут без меры рознай ёсць садавіны: не лянуйся, не ляжы, — еш хоць пуп расперажы.* Крапіва. *—І ў магазіне можна будзе купіць белую булку? —А чаму ж не. Заходзь і купляй. —І еш хоць пуп развяжы, — засмяяўся рыжы баец.* Хомчанка.

*РАСПЕРАЖЫСЯ* ● **Х`ОЦЬ РАСПЕРАЖ`ЫСЯ.** *Толькі ў гэтай форме. Акал. Разм.* Уволю, колькі хочаш (есці, з'есці). **Сін**.: ад пуза (у 1 знач.); да адвалу; еш не хачу *чаго*; за трох дурных; колькі душа

жадае; колькі ўлезе (у 1 знач.); на поўную губу (у 1 знач.); на ўсю губу; не ў свой дух; хоць жывот распеража; як дурны на памінках; як на дзяды (у 1 знач.); як не ў сябе; як у прорву. *Чаго хочаш у той місе — еш, брат, хоць распеража!* Вітка. *А цяпер, хвала богу,— яды хапае, еш хоць распеража...* Сачанка. *Цікава было глядзець, як дзеці самі разносяць страву і хлеб. Тут давалі норму. Не тое што дома: еш — хоць распеража.* Каваленка.

*РАСПЛЮШЧЫЦЬ* • **РАСПЛЮШЧВАЦЬ В`ОЧЫ** *каму на каго, на што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы або абстр. прадмета. Дапамагаць зразумець сапраўднае становішча; рабіць відавочнай праўду аб чым-, кім-н. **Сін**.: адкрыць вочы *каму на каго, на што*; праціраць вочы (у 2 знач.); развязваць вочы *каму. Вобраз швачкі расплюшчвае нам вочы на лёс збяднелага беларускага яўрэйства.* «Роднае сл.» **РАСПЛЮШЧЫЦЬ ВО́ЧЫ** *каму на каго, на што. Зак. Як бы хто ні ацэньваў перыяд так званай перабудовы, аднак жа відавочна, што ён дапамог людзям на многае расплюшчыць вочы.* Гіль. *Чаму нават на гэты мізер кніг, што расплюшчылі вочы на нас саміх, не знайшлося грошай не толькі ў дзяржавы, але і ў «новых беларусаў»?..* «Настаўн. газ.»

*РАСПРАВІЦЬ* • **РАСПРАВІЦЬ КРЫЛЫ.** *Зак. да* **РАСПРАЎЛЯЦЬ КРЫЛЫ.**

**РАСПРАВІЦЬ ПЛЕЧЫ.** *Зак. да* **РАСПРАЎЛЯЦЬ ПЛЕЧЫ.**

*РАСПРАЎЛЯЦЬ* • **РАСПРАЎЛ`ЯЦЬ (РАЗГ`ОРТВАЦЬ) КР`ЫЛЫ (КР`ЫЛЛЕ)**. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачынаць дзейнічаць на поўную сілу сваіх здольнасцей, магчымасцей. **Сін**.: выпростваць спіну; распраўляць плечы. «*Прыйдзе час,— думаў ён [Гумоўскі], — усё зменіцца., няхай тады [Адэля] распраўляе крылы.* Броўка. **РАСПРАВІЦЬ (РАЗГАРНУЦЬ) КРЫЛЫ (КРЫЛЛЕ).** *Зак. Усе верылі, што сяржант выжыве і расправіць крылы, па бабулінаму наказу, і яшчэ паваюе з ворагам.* Кірэенка. *Простых помнікаў даты — сведкі вечныя нам: маладыя салдаты, пахаваныя там. У жыцці не паспелі крыл яны разгарнуць — апранулі шынелі і ў паход... на вайну.* Бачыла. *У гэтым голасе восені чуваць нейкі смутак, а, здаецца, так нядаўна яшчэ гучаў другі голас, радасны, светлы голас вясны: — Разгарні крылле, рушся з месца, ляці на прастор, жыві, як толькі здолен жыць.* Колас.

**РАСПРАЎЛ`ЯЦЬ (РАЗГ`ОРТВАЦЬ) ПЛ`ЕЧЫ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Пачынаць дзейнічаць на поўную сілу сваіх здольнасцей, магчымасцей. **Сін**.: выпростваць спіну; распраўляць крылы. *Тарфянікі далі нам шмат,*

*без іх плечы распраўляць было б цяжка.* Ярашэвіч. **РАСПРАВІЦЬ (РАЗГАРНУЦЬ) ПЛЕЧЫ.** *Зак. Мне думалася, на хутары я здолею расправіць свае плечы, мне ніхто не будзе замінаць абзавесціся добрай гаспадаркай.* Краўчанка. *Залучыўшы да сябе Сераду, атрад Багуна разгарнуў плечы. Быў тол, і партызаны шпурлянулі пад адхон тры цягнікі — адзін за другім.* Навуменка.

*РАСПУСКАЦЬ* ● **РАСПУСКАЦЬ ВУШЫ.** Гл. развешваць.

**РАСПУСК`АЦЬ Н`ЮНІ.** *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Плакаць, пачынаць плакаць. **Сін**.: абліванца слязамі; бярозаю ліцца; вачэй не асушваць; выплакаць <усе> вочы; выціскаць слязу (у 1 знач.); ліць слёзы <*па кім*>; пецць рэпку; пускаць слязу; разводзіць сырасць; умывацца слязамі. *Хлопцы пазіралі на Віцю і не разумелі, што гэта раптам здарылася з ім. Дзівак, ды і толькі. Чаго тут нюні распускаць.* Нядзведскі. **РАСПУСЦІЦЬ НЮНІ.** *Зак. —А гэта чаго сырасць разводзіць? —Віцька кіўнуў галавой на дзяўчыну. —Майстар пасватаўся, вось і распусціла нюні.* Асіпенка.

**2**. Надакучліва скардзіцца, жаліцца. *Анюцін узлаваўся:— Не распускай нюні, палітрук! Залазь у кабіну і спі.* Шамякін. **РАСПУСЦІЦЬ НЮНІ.** *Зак. Кавалер, называецца! Прастаяў цэлы вечар, як пень, двух слоў звязаць не змог, а яшчэ, калі яна глянула не так — пакрыўдзіўся, распусціў нюні.* Прыгодзіч.

**РАСПУСК`АЦЬ <ПАВ`ІНЫ> ХВ`ОСТ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Залішне хваліцца якімі-н. поспехамі, дасягненнямі і пад. **Сін**.: драць нос; завысока ляцець; задзіраць хвост; капыліць нос; несці сябе высока; паднімаць хвост; хварэць на пана (у 2 знач.). *[Федзя:] Мы іх усіх абстаўляем!.. Таму і зарабляем, што тыя прафесары!.. [Марыля:] Ды хопіць табе хвост распускаць.* Губарэвіч. **РАСПУСЦІЦЬ <ПАВІНЫ> ХВОСТ.** *Зак. Форма тут зяўляецца самамэтай, а сякі-такі змест — толькі зачэпкай для таго, каб даць магчымасць аўтару распусціць свой фармалістычны павіны хвост.* Крапіва.

**РАСПУСК`АЦЬ Р`УКІ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Біцца, збіваць каго-н. **Сін**.: даваць волю рукам (у 1 знач.); лічыць зубы *каму, у каго*; лупіць скуру з *каго* (у 1 знач.); палічыць рэбры *каму. Сам жа, Змітро, як толькі адчуў у сабе сілу, пачаў распускаць рукі. Ды так, што яго баялася ўся вёска...* Сачанка. *[Парошка] выскачыў з-за стала і даў Сашку лёгкую аплявуху. —Чаго ты рукі распускаеш? — устаў з табурэткі хлапчук.* Дудараў. **РАСПУСЦІЦЬ РУКІ.** *Зак.*

**2**. Чапаць, абдымаць каго-н., дазваляць сабе празмерныя

вольнасці. **Сін**.: даваць волю рукам (у 2 знач.). **РАСПУСЦІЦЬ РУКІ.** *Зак. [Андрэй:] Што ён табе зрабіў? [Ізабела:] Рукі ён свае распусціў... Прыставаць ён да мяне пачаў. За ногі хапаў. Запрашаў да сябе на кватэру...* Матукоўскі.

**РАСПУСК`АЦЬ ЯЗ`ЫК (-І).** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не стрымлівацца ў сваіх выказваннях, дазваляць сабе гаварыць многа лішняга. **Сін**.: вастрыць язык; даваць волю языку; развязваць язык (у 1 знач.). *—Не прылепяць! Няма за што! — [Ёсць] за што! Язык распускаеш вельмі!.. Смелы вельмі!* Мележ. З *прыходам у брыгаду студэнткі тэхналагічнага інстытута Найдзёнавай ён [Карнілаў] прыструніў усіх, забараніў распускаць языкі.* «Маладосць». *[Дэзерціры] у Жагулы папрасяцца пагрэцца. Таму хаты не шкада. «Толькі языкоў не распускайце, а то — самі ведаеце... — напамінае ён ім.* Крапіва. **РАСПУСЦІЦЬ ЯЗЫК (-І).** *Зак. — Сайка, распусціў ты язык. Ой, глядзі! — прыстрашыў яго войт.* Колас.

*РАСПУСЦІЦЬ* ● **РАСПУСЦІЦЬ ВУШЫ.** *Зак. да* **РАСПУСКАЦЬ ВУШЫ.**

**РАСПУСЦІЦЬ НЮНІ.** *Зак. да* **РАСПУСКАЦЬ НЮНІ.**

**РАСПУСЦІЦЬ <ПАВІНЫ> ХВОСТ.** *Зак. да* **РАСПУСКАЦЬ <ПАВІНЫ> ХВОСТ.**

**РАСПУСЦІЦЬ РУКІ.** *Зак. да* **РАСПУСКАЦЬ РУКІ.**

**РАСПУСЦІЦЬ ЯЗЫК.** *Зак. да* **РАСПУСКАЦЬ ЯЗЫК.**

*РАСПУХЛА* ● **ГАЛАВА РАСПУХЛА** *ў каго <ад чаго>*. Гл. галава.

*РАССЕЙВАЮЦЦА* ● **ХМАРЫ РАССЕЙВАЮЦЦА** *якія, чаго.* Гл. хмары.

**ХМАРЫ РАССЕЙВАЮЦЦА НАД ГАЛАВОЙ** *чыёй, каго.* Гл. хмары.

*РАССЕКЧЫ* ● **РАССЕКЧЫ ГОРДЗІЕЎ ВУЗЕЛ** *чаго. Зак. да* **СЕКЧЫ ГОРДЗІЕЎ ВУЗЕЛ** *чаго.*

*РАССЫПАЦЦА* ● **РАССЫП`АЦЦА ДРАБН`ЕЙ М`АКУ** *перад кім. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Лісліва дагаджаць каму-н., паддобрывацца да каго-н. **Сін**.: віляць хвастом (у 1 знач.); гнуцца ў дугу *перад кім*; гнуцца ў тры пагібелі *перад кім*; гнуць спіну *перад кім*; ламаць шапку *перад кім*; лізаць боты *каму*; падаць лістам *перад кім*; падпускаць лёстачкі *каму*; поўзаць на каленях *перад кім*; рассыпацца <дробным> макам *перад кім*; слацца лістам *перад кім*; станавіцца на заднія лапкі *перад кім*; хадзіць на задніх лапках *перад кім*; хадзіць на пальчыках *перад кім. Усё ведае крывадушны фарысей і адначасова рассыпаецца перад табой драбней маку.* Машара. *—Ды прыходзь, хоць кожны дзень прыходзь! — драбней маку рассыпалася перад разбагацелай падчарыцай цётка Хрысціна.* Аношкін. **РАСС`ЫПАЦЦА ДРАБНЕЙ МАКУ** *перад кім. Зак. —На слупкі адпускаю толькі адзін дзень... Заўтра — на*

*лінію... —Гатоў рассыпацца драбней маку, таксатар. —Акцызнік яшчэ больш усміхаецца.* Пташнікаў.

**РАССЫП`АЦЦА <ДР`ОБНЫМ> М`АКАМ** *перад кім. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Ліслíва дагаджаць каму-н., паддобрывацца да каго-н. **Сін**.: віляць хвастом (у 1 знач.); гнуцца ў дугу *перад кім*; гнуцца ў тры пагібелі *перад кім*; гнуць спіну *перад кім*; ламаць шапку *перад кім*; лізаць боты *каму*; падаць лістам *перад кім*; падпускаць лёстачкі *каму*; поўзаць на каленях *перад кім*; рассыпацца драбней маку *перад кім*; слацца лістам *перад кім*; станавіцца на заднія лапкі *перад кім*; хадзіць на задніх лапках *перад кім*; хадзіць на пальчыках *перад кім. Чаго ўжо ты рассыпаешся перад імі дробным макам? Усё хваліш іх ды спачуваеш?* Лынькоў. *Рэдакцыя рассыпаецца дробным макам перад графаманам, які паставіў сваёй адзінай мэтай — праславіцца ў газетах.* Вітка. *Калі я ёй што кажу, дык яна толькі адгірквваецца. Хоць ты перад ёй макам рассыпайся — не памагае!..*
**РАСС`ЫПАЦЦА <ДРОБНЫМ> МАКАМ.** *Зак.* Бядуля. *Поля не паддавалася на ўгаворы Васіля. Макам перад ёй рассыпся, яна — сваё: —Без вянчання — то не жаніцьба!* Сачанка. *Два разы прыязджаў да іх са сваімі хаўруснікамі Раман Раманавіч і абодва разы намякаў, што здарылася так невыпадкова, Ён рассыпаўся дробным макам, называў яе [Улінага] бацьку «бацькам», а маці — «мамай».* Паўлаў.

*РАССЯЧЫ* ● **РАССЯЧЫ ГОРДЗІЕЎ ВУЗЕЛ** *<чаго>. Зак.* да **СЕКЧЫ ГОРДЗІЕЎ ВУЗЕЛ** *<чаго>.*

*РАСТАЕ* ● **ЛЁД** *чаго* **РАСТАЕ.** Гл. лёд.

**У Р`ОЦЕ РАСТА`Е (-ЮЦЬ).** *Вык. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн., які абазначае назвы ежы. Вельмі смачны. **Сін**.: за вушы не адцягнеш (у 1 знач.); пальчыкі абліжаш (у 1 знач.); язык праглынеш. **Ант**.: расце ў роце; хоць на сабаку вылі. *Муж у мяне ласкавы, клапатлівы, майстар на ўсе рукі Згатуе снеданне — пальчыкі абліжаш, абед зробіць — у роце растае.* «Вожык». *Во, вазьмі ў маім садзе яблыкі: хто калі іх даглядае, хто калі якія спажыўныя рэчывы сыпле, а яблыкі — у роце растаюць.* Блакіт. *«Ага,— згаджаецца Лявон, — фаршыраваны шчупак таксама смачны. Сам растае ў роце».* Кажадуб.

*РАСТАПІЦЬ* ● **РАСТАП`ІЦЬ Л`ЁД** *<паміж кім, чаго>. Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ліквідаваць нацягнутасць у адносінах паміж кім-н. **Сін**.: разбіць лёд *<чаго, паміж чым>. Мне падумалася: як усё ж няпроста растапіць лёд недаверу, выкліканага праяўленай кіраўнікамі саўгаса неабавязковасцю, абыякавасцю да..*

*малакамплектнай школы.* «Настаўн. газ.» – *Вы служылі ў дзвесце дваццаць дзевятым артылерыйскім? – пытанне такога ладу, калі я не памыліўся ў чалавеку, павінна было растапіць лёд адчужэння. Па нумары часці ветэран пазнае ветэрана.* Б. Стральцоў.

*РАСТУЗАЦЬ* ● **РАСТ`УЗАЦЬ Н`ЕРВЫ.** *каму. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымусіць каго-н. расхваляванца, разнервавацца. **Сін.**: папсаваць нервы каму; парваць нервы (у 2 знач.). *Я яму ўсё скажу хоць цяпер!.. Ён мне ўсе нервы растузаў, гэты… пан Мукасей!* Брыль.

*РАСТУЦЬ* ● *Ведаць, высвятляць і пад.* **АДКУЛЬ НОГІ РАСТУЦЬ.** *Гл. ногі.*

**НА ВЯРБЕ ГРУШЫ РАСТУЦЬ** *у каго.* Гл. грушы.

**НЕ АДТУЛЬ РАСТУЦЬ РУКІ** *чые, у каго.* Гл. рукі.

**ПАКАЗАЦЬ АДКУЛЬ НОГІ РАСТУЦЬ** *каму.* Гл. паказаць.

*РАСХЛЁБВАЦЬ* ● **РАСХЛ`ЁБВАЦЬ К`АШУ.** *Разм. Незак.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Разблытваць якую-н. складаную, клапатлівую ці непрыемную справу. **Ант**.: агарод гарадзіць; заварваць кашу; наварыць піва. *Смелы вы чалавек, таварыш Бабарэка, адказнасці не баіцеся. А ўсё таму, што маладыя, без вопыту… На мой сталы розум, дык я гэту кашу не стаў бы расхлёбваць.* Асіпенка. *Твае справы, брат, дрэнныя… Аднаму табе давядзецца расхлёбваць кашу за ўсіх.* Караткевіч.

*РАСХОД* ● **ВЫВОДЗІЦЬ У РАСХОД** *каго.* Гл. выводзіць.

*РАСХОПЯЦЬ* ● **ЛЮДЗІ НОЧ РАСХОПЯЦЬ.** Гл. людзі.

*РАСЦЕ* ● **РАСЦ`Е Ў Р`ОЦЕ.** *Незак. Цяп. і пр. Разм.* Ужыв. пры дзейн., якія абазначае назвы ежы. Не праглынаецца што-н. з-за непрыемнай на смак стравы ці з-за адсутнасці апетыту. **Сін**.: хоць на сабаку выллі. **Ант**.: за вушы не адцягнеш (у 1 знач.); пальчыкі абліжаш (у 1 знач.); у роце растае; язык праглынеш (у 1 знач.). *Паважная Асоба, абцерабіўшы раку шыю і клешні (не хоча з драбязой займацца ён, канечне), давай упісваць рэшту. Ды вось не есца толькі нешта: расце, здаецца, ў роце рак.* Крапіва. *На апале ляжала горка тоўстых шэрых бліноў з сарадэлы. Адкусіў [Лявон] кавалак — ён.. рос у роце. Есці не хацелася.* Кудравец. *Узяла ў рот, дзе там! Я ем, а яно ў мяне ў роце расце. Ні з'есці, ні выплюнуць.* Янкоўскі.

*РАСЦІ* ● **ХОЦЬ ТРАВА НЕ РАСЦІ** <*каму*>. Гл. трава.

*РАСЦЯКАЦЦА* ● **РАСЦЯК`АЦЦА М`ЫСЛЯЙ (Д`УМКАЙ) ПА ДР`ЭВЕ.** *Незак. Функц. не зам. Часцей іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць залішне мнагаслоўна, падрабязна. *Баян бо чарадзейны, калі каму песню хацеў утварыці, то расцякаўся мысляй па дзераву.*

Купала. *А доказы? Адны хоць… А на хоць не накінеш аброць. Штосьці расцёкся я думкаю па дрэве.* Макаловіч.

*РАСЧЫНЕНЫ* ● **ДЗВЕРЫ РАСЧЫНЕНЫ** *каму, для каго, перад кім.* Гл. дзверы.

*РАСЧЫНІЦЬ* ● **РАСЧЫНІЦЬ АКНО Ў СВЕТ** *<які> каму. Зак. да* **РАСЧЫНЯЦЬ АКНО Ў СВЕТ** *<які> каму.*

*РАСЧЫНЯЦЬ* ● **РАСЧЫНЯЦЬ АКНО Ў СВЕТ** *<які> каму.* Гл. адчыняць.

*РАСЧЫСЦІЦЬ* ● **РАСЧЫСЦІЦЬ ДАРОГУ** *каму, чаму. Зак. да* **РАСЧЫШЧАЦЬ ДАРОГУ** *каму, чаму.*

*РАСЧЫШЧАЕЦЦА* ● **ДАРОГА РАСЧЫШЧАЕЦЦА** *каму, чаму.* Гл. дарога.

*РАСЧЫШЧАЦЬ* ● **РАСЧЫШЧ`АЦЬ ДАР`ОГУ** *каму, чаму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, сукупнасці асоб ці абстр. прадмета. Змагаючыся з перашкодамі, ствараць спрыяльныя ўмовы для каго-, чаго-н. *Пан Крулеўскі расчышчаў дарогу і падрыхтоўваў поле грамадскай думцы на карысць польскай акупацыі...* Колас. *Трэба было ўнікаць ва ўсе дробязі жыцця, расчышчаць дарогу новаму, змагацца з цемрай і забабонамі.* Шкраба. **РАСЧЫСЦІЦЬ ДАРОГУ** *каму, чаму. Зак.*

*РАСЫ* ● **АД РАС`Ы ДА РАС`Ы.** *Акал. Разм.* Увесь дзень, з усходу да заходу сонца. **Сін**.: ад відна да цямна; ад зары да зары (у 1 знач.); ад цёмнага да цёмнага; ад цямна да цямна (у 1 знач.). **Ант**.: ад відна **<і>** да відна; ад зары да зары (у 2 знач.); ад цямна <і> да відна. *Як ты станеш вылежвацца, калі побач з табой так працуюць? Ад расы да расы.* Шамякін. *Руплівыя, працавітыя механізатары.. снуюць па сенажаці, як кажуць, ад расы да расы.* «Звязда».

*РАТУЕ* ● **НЯХАЙ БОГ РАТУЕ.** Гл. бог.

*РАТУНКУ* ● **ЯКАР РАТУНКУ.** Гл. якар.

*РАТЫ* ● **ПАРАЗЯЎЛЯЦЬ РАТЫ.** Гл. паразяўляць.

*РАЎНУЮЧЫ* ● **НЕ РАЎН`УЮЧЫ.** *У знач. пабочн. сл. Разм. Ужыв. пры параўнальным звароце.* Прабачце за не зусім удалае параўнанне. *[Несцерка:] Эге, колькі вас тут сабралася! Не раўнуючы, як дроў у лесе.* В.Вольскі. *І гэтае мілае стварэнне, яе паслухмяны ўвішны парсючок здаўся ёй [Сцепанідзе] радней за якога чалавека — ну як дзіця, не раўнуючы.* Быкаў. *Тварык гэтага чалавека быў дробны, не раўнуючы, як кулак, увесь зарослы рэдзенькім рыжым хмызнячком.* Чарнышэвіч.

*РАХУНАК* ● **Г`АМБУРГСКІ РАХ`УНАК.** *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Функц. не зам.* Сур'ёзныя, прынцыповыя, бескампрамісныя адносіны, стасункі паміж кім-н. *Сяброўства, знаёмствы, агульныя справы не*

*мелі тады той улады, як сёння. Рахунак быў гамбургскі – мяркуйце самі...* Кісліцына.

**НЕ ІСЦІ Ў РАХУНАК.** Гл. ісці.

**НА РАХ`УНАК** *чый. Акал. Разм.* У адносінах да каго-н., адносна каго-н. (гаварыць, выказвацца і пад.). **Сін.**: на адрас *чый, каго*; па адрасу *каго, чыйму*; у адрас *чый, каго. Аксеня ўдарыла ў прыпеўкі. Хомчык зарагатаў, а з ім і яна. —Хіба ж гэта не на мой рахунак? — сказаў Хомчык і абвіў рукою яе моцны стан.* Пестрак. *На рахунак Альшэўскага-палітвязня варта запісаць хіба тое, што ён узняўся над вузка асабістым успрыманнем «Прадвесня» і «дараваў» аўтару расплывістасць сацыяльных ацэнак.* Калеснік.

**ПРЫМАЦЬ НА СВОЙ РАХУНАК** *што.* Гл. прымаць.

*РАХУНКАЎ* ● **ЗВЯДЗЕННЕ РАХУНКАЎ** *<з кім>.* Гл. звядзенне.

*РАХУНКІ* ● **ЗВОДЗІЦЬ РАХУНКІ** *з кім.* Гл. зводзіць.

*РАХУНКУ* ● **НА РАХ`УНКУ.** *Вык. Функц. не зам.* **1.** *якім у каго.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Прызнаны, лічыцца якім-н. *У немцаў Лубан на добрым рахунку.* Навуменка. *Школа на добрым рахунку. У ёй не здаралася ні скандалаў, ні правалаў.* Гіль.

**2.** *чыім, каго. Ужыв. пры дзейн., выраж. колькасна-імен. спалучэннем.* Лічыцца за кім-н., мецца ў каго-н. *На яго [Юркі Голуба] мастакоўскім рахунку пяць кніг «дарослай» паэзіі.* Ал.Марціновіч. *Цяпер на рахунку ў Гетманскага дзесяць збітых самалётаў.* Алешка. *На рахунку Краснеўскага было ўжо некалькі раскрытых злачынстваў, калі яму даручылі не зусім звычайную справу.* Гойтан.

**ПА ВЯЛ`ІКІМ РАХ`УНКУ**. *Акал. Функц. не зам.* **1.** Сур'ёзна, прынцыпова, без скідак і ўступак. **Сін.**: па гамбургскім рахунку (у 1 знач.). *Апошнімі гадамі часцяком успамінала цябе, асабліва калі хацела папракнуць мяне ў нечым. І не па дробязях, а, як кажуць, па вялікім рахунку.* Петрашкевіч. *Хочацца большага? Але чаго? Паразумення? Поўнага? Відаць, так. Знешне яно нібыта і ёсць. А вось калі па вялікім рахунку, шмат чаго не хапае для ўзаемнага шчасця.* Крэйдзіч. *Уважліва прыгледзьцеся да сённяшняга мужыка: хто ён зараз, калі браць па вялікім рахунку?* «Нар. воля».

**2.** Па-сапраўднаму, належным чынам, як і павінна быць. **Сін**: па гамбургскім рахунку (у 2 знач.). *Падзеі, што адбываюцца ў межах дзяржавы, па вялікім рахунку ёсць справа суверэннай дзяржавы.* «Маладосць». *Ад кожнага з нас, дзе б хто ні працаваў, залежыць многае. А па вялікім рахунку – быць ці не быць Беларусі незалежнай, цывілізаванай, духоўна і матэрыяльна багатай дзяржавай.*

Законнікаў. *А калі гаварыць па вялікім рахунку, Леанід Ігнацьевіч, ніякіх асабіста вашых комплексаў тут няма: вы ствараеце праекты, а мы іх ажыццяўляем.* Кантылёў.

**3.** Фактычна, у адпаведнасці з рэальнасцю. **Сін.**: па гамбургскім рахунку (у 3 знач.) *Па вялікім рахунку вышэйшай навучальнай установе ўсё роўна, як ацэньваюцца веды вучняў у школе. Галоўнае, каб гэтыя веды былі не ніжэй, чым на ўзроўні прымянення ў стандартнай сітуацыі.* «Настаўн. газ.» *Цяжка сёння з упэўненасцю казаць, што з гістарычных дакументаў магло быць вядома Купалу, а па вялікім рахунку інфармацыя тады была больш даступнай, чым нават сёння.* І.Жук. *Дарэмна аўтар манаграфіі канстатуе ў ранняга Я.Чыквіна «дакладны памер», «выразнасць рытмічнага малюнка, рыфмоўкі»... Гэтага па вялікім рахунку проста няма ў першым зборніку, хоць крытыку вельмі хочацца згаданыя здабыткі знайсці.* Пяткевіч.

**ПА Г`АМБУРГСКІМ РАХ`УНКУ**. *Акал. Функц. не зам.* **1.** Сур'ёзна, прынцыпова, без скідак і ўступак. **Сін.**: па вялікім рахунку (у 1 знач.). *З аднаго боку, я неафіт – нейкія там публікацыі, з другога – чытач, што ацэньвае ўсё выключна па гамбургскім рахунку, з трэцяга – маю вопыт рэдактарскай працы...* Сямёнава. *Пры ўсім гэтым Быкаў досыць сціпла ацэньвае ўласныя мастацкія адкрыцці і мысліцельныя прарывы, бо вымярае не толькі свае, але і наогул чалавечыя магчымасці, фізічныя і духоўныя, па гамбургскім рахунку, не шукаючы апраўданняў дзесьці па-за сабою.* Тычына.

**2.** Па-сапраўднаму, належным чынам, як і павінна быць. **Сін**.: па вялікім рахунку (у 2 знач.). *Ці ведаем па гамбургскім рахунку мы самі, дзе гэтая краіна – Беларусь? Менавіта краіна, а не месца жыхарства? Ці ўмеем мы ёю ганарыцца?* Арлоў.

**3.** Фактычна, у адпаведнасці з рэальнасцю. **Сін**.: па вялікім рахунку (у 3 знач.). *Нават «руская зямля» перыяду XIII ст. – гэта ўсё ж Кіеўская Русь. Уласна рускую думку па гамбургскім рахунку павінна пачынаць з Маскоўскага перыяду, калі ў яе нетрах пачалі фармавацца ідэі вялікадзяржаўя, самадзяржаўя, «сапраўднага рускага праваслаўя», выявай якіх з'яўлялася фармулёўка «Масква – трэці Рым».* «ЛіМ». *У сэнсе патэнцыяльнай недапраяўленасці па вялікім гамбургскім рахунку – Барыс Пятровіч адзін з вельмі і вельмі нямногіх сярод трывала фармаваных літаратараў.* «Крыніца».

**СКІДАЦЬ З РАХУНКУ** *каго, што.* Гл. скідаць.

**СКІДВАЦЦЦА З РАХУНКУ.** Гл. скідвацца.

**СПІСВАЦЬ З РАХУНКУ.** Гл. спісваць.

*РАЦЫЮ* ● **МЕЦЬ РАЦЫЮ.** Гл. мець.
*РВАЦЦА* ● **РВАЦЦА НА ЧАСТКІ.** Гл. разрываецца.
*РВАЦЬ* ● **БАК`І (Б`ОКІ) РВ`АЦЬ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі моцна і доўга, да знямогі смяяцца. **Сін**.: брацца за жываты; качацца са смеху; надрываць жываты <ад смеху>; паехаць ад смеху; пакаціцца ад смеху; паміраць ад смеху. *[Жлукта:] За камедыю! Трэба каб вясёлая была. Выведзі такога тыпуса, каб гледачы аж бакі рвалі.* Крапіва. **БАКІ (БОКІ) ПАРВАЦЬ.** *Зак. —Іван Сцяпанавіч, калі адзін застаецца ў сталярцы, дык разуваецца... Прусакі яму пяткі чухаюць! — Бакі можна парваць... —Дыненка заліўся сцішаным рогатам.* Масарэнка. *—Пачакай, — узяў за рукаў Віктара. —Я табе зараз раскажу нешта. Бокі парвеш.* «Маладосць».

**РВ`АЦЬ Г`ОРЛА (ГЛ`ОТКУ).** *Незак. Праст. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі моцна гаварыць, крычаць, спяваць і пад. **Сін**.: драць горла (у 1 знач.). *Я, напалоханы рослым, гайсаў па паляне і раў, раў сваё горла, аж сінеў ад крыку...* Сачанка. *А я ж рвала глотку на ўвесь бор! Дзе ты прападаў?* Бядуля.

**РВАЦЬ ЖЫВАТЫ <АД СМЕХУ>.** Гл. надрываць.

**РВ`АЦЬ Ж`ЫЛЫ (Ж`ЫЛЛЕ).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Цяжка, з вялікім напружаннем працаваць, надрывацца на якой-н. рабоце. **Сін**.: рваць кішкі; рваць пуп. *Прыхапіўшы гектараў пяць падзеленай калгаснай зямлі, [Цітарэнка] ірве на ёй жылы, стараючыся як лепей урабіць.* Навуменка. *З раніцы да позняй ночы брыгада рве жылы, да знямогі высільваецца.* М.Капыловіч. *І Карл мусіў разам з намі рваць сваё жылле на пана.* Сачанка. *Зімаўцы зноў упрагаліся: вазілі дрэвы, карчавалі пні, будаваліся на беразе Сажа. Ірвалі жылле і не заўважалі, як насунулася бяда.* Карамазаў.

**РВАЦЬ З ЗУБОЎ** *што ў каго, з чыіх.* Гл. вырываць.

**РВ`АЦЬ З КАП`ЫТА.** *Незак. Разм. Неадабр.* Пераважна ўжыв. пры дзейн. са знач. асобы. Грымець, лютуючы. *Дэлегаты прыціхлі, як мышы пад венікам, не паварушацца. —Так, так, — з капыта рве фон Пільц. —Ну што вы з сябе ўяўляеце?* Гурскі. *Тут вельмі мала гаварыць пра памяць. Ён [Куляшоў] сам — жывы, і з ім — жывыя мы. Чытае верш: і ўжо раве цунамі, рвуць з капыта ў Амсціславе грамы.* Лужанін.

**РВ`АЦЬ К`ІПЦІ.** *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Імкліва ўцякаць, выратоўваючыся ад небяспекі. **Сін.**: аддаваць канцы (у 2 знач.); вастрыць лыжы *куды, адкуль* (у 2

знач.); выносіць ногі <*адкуль, ад каго*>; даваць дзёру; даваць драла; даваць драпака; даваць лататы; даваць махні-драла; даваць маху (у 2 знач.); даваць стракача *ад каго, адкуль, куды*; даваць у ногі; даваць ходу *адкуль, куды*; даваць цягу; змотваць вудачкі; зрабіць ногі (у 1 знач.); падмазваць пяткі; паказваць пяткі; паказваць спіну (у 2 знач.). *Турэмшчыкі і праўда не заўважылі, але ён падумаў, што годзе. Трэба як найхутчэй ірваць кіпці. Іначай усё прападзе.* Быкаў. *Зладзеі раптам сталі як укопаныя. Сумка гэпнула на зямлю, а яны адхапілі ад яе рукі, як ад агню... – Рві-і кіпці!..* Місько. *Ага, думаю, сабраўся [заяц] рваць кіпці, хоча, каб мы патроху ад яго адвыклі, а потым ён і зусім нам пакажа дулю.* Кусянкоў.

**РВ`АЦЬ НА САБ`Е ВАЛАС`Ы.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адчайвацца, вельмі моцна перажываць, гараваць. **Сін**.: кусаць <сабе> локці; кусаць сябе за локці; ламаць <сабе> рукі; пасыпаць галаву попелам. *Як указ той прачыталі, валасы на сабе рвалі ўсе палатныя чыны.* Дунін-Марцінкевіч. *Валасы [Зося] рвала на сабе, праклінала, што сама сваё дзіця ўправіла.* Крапіва. *Жахнулася Нюрка: што ж яна будзе рабіць адна з двума дзецьмі!.. Хадзіла па хаце, рвала на сабе валасы, галасіла.* Арабей.

**РВ`АЦЬ К`ІШКІ.** *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Цяжка, з вялікім напружаннем працаваць, надрывацца на якой-н. рабоце. **Сін**.: рваць жылы; рваць пуп. *Займеў гаспадарку. Адзін. Кішкі ірваў, але ніхто не шкодзіў. Мусіць, баяліся сюды патыкацца. А я не баяўся – рабіў. Дзень і ноч. Затое і меў. Гэта раней задарма. А тут, што зрабіў, – тваё. Што пасеяў – сабраў.* «Полымя». **ПАРВАЦЬ КІШКІ**. *Зак. Некалі ён [Пятрок] ужо хварэў на запаленне лёгкіх — застудзіўся на лесанарыхтоўках, як вазілі лес з пушчы і ў яго неяк зламаліся сані з бярвеннем, ну, прыйшлося папацець, парваць кішкі.* Быкаў.

**РВ`АЦЬ Н`ЕРВЫ.** *Незак. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна хвалявацца, раздражняцца, злавацца. **Сін**.: рваць сабе душу; тузаць нервы (у 2 знач.). *Месяцы два пасля пісьма было ціха. Ігнат думаў ужо, што так ніхто і не акажацца. Ну і хай сабе. Чаго ты перажываеш, нервы рвеш?..* Кудравец.

**2**. *каму. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Моцна хваляваць, раздражняць, прымушаць нервавацца каго-н. **Сін**.: псаваць нервы *каму. Як часта, думаў ён [Алесь], мы па дробязях спрачаемся, хвалюемся, рвём нервы адзін аднаму, не можам падзяліць шмоткі ці ўяўную славу, такім чынам скарачаем адзін аднаму жыццё...* Новікаў. *Не трэба рваць людзям нервы, усе і*

*так узвінчаны: пераправа праз вялікую раку — падзея ў жыцці салдата.* Дамашэвіч.

**РВ`АЦЬ П`УП.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Цяжка, з вялікім напружаннем працаваць, надрывацца на якой-н. рабоце. **Сін**.: рваць жылы; рваць кішкі. *[Павэлак] не рваў пупа ніколі, а зараз ужо, каб і схацеў, дык няшмат бы змог.* Бондар. *Праўда, не галадае тут Кандрат, пуп не рве ў працы, а шчасця не мае.* Левановіч. *—Ну, а чым жа ты за мяне лепшы? Чаму ўладкаваўся сюды на зіму? У калгасе не хацелася пуп ірваць? А бярэшся вучыць некага... —А я, відаць, хўтка зноў пайду ў калгас. Як ты кажаш., пуп ірваць...* Радкевіч.

**РВ`АЦЬ (РАЗРЫВ`АЦЬ) ДУШ`У (С`ЭРЦА)** *чыю, каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Моцна трывожыць, хваляваць, мучыць каго-н. **Сін**.: вымотваць жылы (у 2 знач.); вымотваць кішкі *каму* (у 1 знач.); гнаіць душу *чыю, каму*; кроіць сэрца *каму, чыё*; разануць <нажом> па сэрцы *каго*; раздзіраць душу *каму, чыю*; рэзаць па жывому (у 2 знач.); рэзаць сэрца *каму*; сушыць сэрца *чыё, каму*; цягнуць душу з *каго*; цягнуць за душу *каго. [3-ці падарожны:] І песню так пяе працяжна! [1-ы падарожны:] Душу, здаецца, рве яна.* Купала. *[Бутрым:] Ах, матка, пакінь плакаць, не рві душы, і так сумна, а ты.. плачаш і плачаш* Галубок. *Вялікія, непрымірымыя імкненні рвалі Васілёву душу!..* Мележ. *Страшны цяжар душыў яго [Цвірку]. Ні з чым непараўнаны смутак ірваў яго душу.* Чорны. *Усё гэта разам ды яшчэ думкі пра Чырвонае Возера часам разрывалі душу, наганялі бяссонніцу і ператваралі шпітальныя ночы ў суцэльную пакуту.* Кулакоўскі. *Прашу цябе, сынок, прызнавайся: не муч маму, не рві майго сэрца.* Пальчэўскі. *[Дзеці] соладка спалі і не адчувалі тае пакуты, якая рвала сэрца іх мацеры.* Нёманскі.

**РВ`АЦЬ (РАЗРЫВ`АЦЬ) НА КАВ`АЛКІ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці няпэўнай сукупнасці асоб. Бесперапынна турбаваць просьбамі, даручэннямі і пад. *У млыне Крушынскі ніводнай хвіліны на месцы не можа ўстаяць. Яго рвуць на кавалкі — то туды, то сюды.* Бядуля. *Абед разносіць маладая смяшлівая Валя ў белай паркалёвай касынцы і гэтакім жа белым фартуху. Валю з усіх бакоў рвуць на кавалкі. —Валя, нясі нам! — Валя, нам давай!* Васілевіч. *[Лютынскі:] Вярнуўся з арміі, думаў, буду і надалей толькі з малымі ў школе справу мець. Куды там! На кавалкі разрываюць: вучы, памагай, арганізуй.* Крапіва.

**РВ`АЦЬ САБ`Е ДУШ`У.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна трывожыцца, хвалявацца, мучыцца. **Сін**.: рваць

нервы (у 1 знач.); тузаць нервы (у 2 знач.). *Нічога ён яшчэ не сказаў нам такога, каб... І не рві душу сабе.* Чыгрынаў. *Агромністы магільны насып на нечуваных могілках, які ўраз пахаваў пад сабой бог ведае колькі людзей. І маму, і тату, і Марыську пахаваў. Каб не рваць сабе душу, ён [Пятро] ледзь не бегма падаўся адсюль.* Кудраўцаў.

*РВЕ* ● **РВ`Е (РВ`УЦЬ, РВ`АЎ, -ЛА, -ЛІ) В`ОКА (В`ОЧЫ).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Асляпляе сваёй яркасцю, прыгажосцю, неадчэпна прыцягвае ўвагу. **Сін**.: адбірае вочы; коле вочы. *Прайшоў раз, другі рынак, бачу: стаіць чорны жарэбчык; падышоў, абгледзеў — аж вока рве: сыт, складзен, малады...* Ядвігін Ш. *Бульбоўнік, што пачынаўся па той бок гуцянскай дарогі, меў акурат падсвечаны выгляд і зелянеў так, што ажно рвала па-веснавому вочы.* Чыгрынаў. *Калі ўчора на сонцы яшчэ рвалі вока, як жывыя, і зяляніна брамкі, і крамяная жаўцізна плота, і белізна коміна, то цяпер — і плот, і брамка толькі цяніліся, а комін зусім растварыўся ў белай каламуціі туману.* Сабаленка.

*РВЕЦЦА* ● **ДУША РВЕЦЦА <НА ЧАСТКІ>** *чыя, у каго.* Гл. душа.

**СЭРЦА РВЕЦЦА З ГРУДЗЕЙ** *у каго.* Гл. сэрца.

*РВУЦЬ* ● **ЯК САБАКІ РВУЦЬ** *што.* Гл. сабакі.

*РОБІЦЬ* ● **Р`ОБІЦЬ (РАБ`ІЛА) Ч`ЭСЦЬ (Г`ОНАР)** *каму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Па заслугах характарызуе каго-н. *—Вы — скромны чалавек, і гэта робіць вам чэсць, — адказаў Кірыл.* Колас. *Такія наскокі, малады чалавек, не робяць вам гонару.* Пянкрат. **ЗРОБІЦЬ (ЗРАБІЛА) ЧЭСЦЬ (ГОНАР)** *каму. Зак.*

*РОГ* ● **ГНУЦЬ У БАРАНОЎ РОГ** *каго.* Гл. гнуць.

**ЗАГАНЯЦЬ У КАЗІНЫ РОГ** *каго.* Гл. заганяць.

*РОГА* ● **ЯК (НІБ`Ы) З Р`ОГА ДАСТ`АТКУ.** *Акал. Кніжн.* У вялікай колькасці, невычарпальна і беспераcтанку (сыпаць, сыпацца, выдаваць і пад.). **Сін**.: як з мяшка; як з рукава; як з рэшата (у 2 знач.). *Хоць паклёпы Караневіча сыпаліся як з рога дастатку, устаноўлена: Буры не вінаваты.* «Звязда». *Крывавы фашысцкі кат фон Готберг.. гучна і нібы з рога дастатку сыпаў камусьці адрасаваныя праклёны...* «Полымя». *Са свае званіцы, «свайго пункту гледжання» як з рога дастатку сыплецца пахвала...* Сачанка.

*РОГАТУ* ● **ПАЕХАЦЬ АД РОГАТУ.** Гл. паехаць.

*РОГІ* ● **АБЛАМАЦЬ РОГІ** *каму.* Гл. абламаць.

**БРАЦЬ БЫКА ЗА РОГІ.** Гл. браць.

**К ЧОРТУ НА РОГІ.** Гл. чорту.

**НАСІЦЬ РОГІ.** Гл. насіць.

**НАСТАЎЛЯЦЬ РОГІ** *каму.* Гл. настаўляць.

**ПАДПІЛОЎВАЦЬ РОГІ** *каму.* Гл. падпілоўваць.

**Р`ОГІ АДРАСЛ`І (ПАВЫРАСТ`АЛІ)** *у каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. стаў непакорным, неслухмяным. *—Ачумелі бабы, — кашлянуў Казімір, — распусціліся. Рогі адраслі. Надакучылі ім мужыкі. Родненькім не хочуць дагаджаць — чужым будуць.* Калодзежны. *—Эдзік жа кавалер ужо. —А розум адзін. Рогі павырасталі — не падступіцца!* Гіль.

**СКРУЦІЦЬ РОГІ** *каму.* Гл. скруціць.

**ЧОРТУ РОГІ СКРУЦІЦЬ.** Гл. скруціць.

*РОД* ● **З РОДУ Ў РОД.** Гл. роду.

*РОДАМ* ● **З П`ЕКЛА Р`ОДАМ**. *У ролі прэдык. азн. Разм. Асудж.* Люты, бесчалавечны, бязлітасны. Пра чалавека. – *О тыя немцы, – гаварылі вяскоўцы ў гэтую вайну, – тыя немцы былі як людзі, а гэтыя – з пекла родам.* Калеснік. *Усе яны, уся радня з пекла родам.* Янкоўскі.

*РОДЗЕ* ● **У НЕКАТ`ОРЫМ Р`ОДЗЕ.** *Акал. Разм.* У якойсьці ступені, у тых ці іншых адносінах. *Дождж у некаторым родзе дазваляе адчуць слодыч таго стану, пра які я гавару: нікуды не выткнешся, макрыня.* Лужанін.

**У СВА`ІМ Р`ОДЗЕ.** *Азн. Ужыв. перад наз. Функц. не зам.* У пэўным сэнсе, у пэўных адносінах; своеасаблівы. **Сін**.: свайго роду. *Яго [Купалава] паэма «Над ракой Арэсай», адзіная ў сваім родзе, становіцца шырока вядомай за межамі Беларусі.* Колас. *П.Вігель, вядома, не адзіны ў сваім родзе «талент». У яго былі папярэднікі.* Сачанка. *Паэзія.. дае унікальную ў сваім родзе інфармацыю аб эмацыянальным, духоўным жыцці чалавека.* «Звязда». *Унікальныя ў сваім родзе дакументы,.. Уяўляеце, перапіска партызанскага камандавання са сваімі сувязнымі.* «ЛіМ».

*РОДНЫ* ● **АНДРЭЙ КУЗЬМЕ РОДНЫ ХВЁДАР.** Гл. андрэй.

*РОДУ* ● **АД Р`ОДУ.** *Акал. Разм.* З самага нараджэння. *—Рад, што кабылу жарэбную асядлаў... —Мая кабыла — ад роду конь. Нешта вы сталі недабачваць.* Брыль. *Сымонку Кеплю было дзесяць гадоў ад роду.* Гартны.

**БЕЗ Р`ОДУ І <БЕЗ> ПЛ`ЕМЕНІ.** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зусім адзінокі, без родных. *—Вот што, Шэмет,— Сарока ўстала,— я таксама не без роду і племені, і ў мяне быў муж, былі бацькі, браты і сёстры, свае дзеці і пляменнікі, і я ведаю, што такое пачуццё радасці.* Лобан. *У Чаплюка не было свайго двара. Ён быў, як кажуць, чалавек без роду і племені.* Зарэцкі.

**БЕЗ Р`ОДУ І <БЕЗ> ПЛ`ОДУ.** *Акал. Разм.* У поўнай адзіноце, без родных (жыць). *Якаў Лукіч жыў адзінока – без роду і без плоду, як кажуць.* Карамазаў. *Сенька адзін, без роду і плоду.. жыве на краі вёскі ў старой хаціне.* Кадзетава.

**З Р`ОДУ Ў Р`ОД.** *Акал. Функц. не зам.* **1**. Па спадчыне, ад бацькоў да дзяцей (пераходзіць, перадавацца і пад.). **Сін**.: з пакалення ў пакаленне (у 1 знач.). *Як вочы, бровы, як гарачы рот, удары сэрца, пачуццё кахання, так памяць пераходзіць з роду ў род.* Грахоўскі.

2. Па традыцыі, ад старэйшых да малодшых (перадавацць, пераходзіць, праносіцца і пад.). **Сін**.: з пакалення ў пакаленне (у 2 знач.). *Глядзі — ускалыхнацца, прачнецца мільённы прыспаны народ, і вокліч славы пранясецца, пяснярскай славы з роду ў род.* Купала. *З роду ў род хадзіла тут немаведама кім пушчаная легенда, што каменне расце ў зямлі, як бульба.* Машара.

**ІВАН БЕЗ РОДУ І ПЛЕМЕНІ.** Гл. іван.

**НІ Р`ОДУ НІ ПЛ`ЕМЕНІ (ПЛ`ЕМЯ).** *Часцей дап. Разм.* Нікога з родных, сваякоў (няма, не памятаць і пад.). **Сін**.: ні роду ні плоду. *Няма ў гэтага чалавека ні роду ні племя. Ходзіць ён ад вёскі да вёскі з цагельнай формаю ў руках. Робіць цэглу, кладзе печы.* Каваль. *Ну быць жа такога не можа, каб ён па сваёй ахвоце забыўся пра мяне. Пэўна, падраніла так, што не памятае ні роду ні племені.* Дудараў. *[Мальвіна:] А ён што? Галота нейкая, ні роду ні племені.* В.Вольскі.

**НІ Р`ОДУ НІ ПЛ`ОДУ.** *Часцей дап. Разм.* Нікога з родных, сваякоў (няма, не засталося і пад.). **Сін**.: ні роду ні племені. *—А ў цябе, праўда, ні роду ні плоду не засталося? — мабыць, каб толькі не маўчаць, спытаў Пётра.* Грахоўскі. *«Ні роду ні плоду» — як сказана зло! Маўкліва жанчыну шкадуе сяло. «Ні роду ні плоду»... — трымаюць яны скрутак халодны нічыйнай віны.* Каржанеўская. *Я тут адна, няма ў мяне ні роду ні плоду.* Юрчанка.

**СВАЙГ`О Р`ОДУ.** *Азн. Ужыв. перад наз. Функц. не зам.* У пэўным сэнсе, у пэўных адносінах; своеасаблівы. **Сін**.: у сваім родзе. *Нешта праз тыдзень, якраз у нядзелю, прыйшла да Алесі свайго роду дэлегацыя ад моладзі з просьбай, каб у яе хаце зрабіць вечарынку.* Пестрак. *На ўчастку пастаянна прысутнічае майстар — матэрыяльна адказная асоба. Гэта свайго роду першы шлагбаум на шляху несуной.* «Звязда».

*РОЖКІ* ● **БРАЦЦА Ў РОЖКІ** *з кім.* Гл. брацца.

**ЗВОДЗІЦЬ У РОЖКІ** *каго з кім.* Гл. зводзіць.

**ПАЙСЦІ Ў РОЖКІ** *з кім.* Гл. пайсці.

**Р`ОЖКІ ДЫ Н`ОЖКІ** *засталіся (застануцца). Акал. Разм.* Нічога, амаль нічога ці зусім нічога не (засталося ад чаго-, каго-н.). *Хай як хоча, так і выкручваецца Эдзік. Усё роўна рожкі ды ножкі астануцца ад сцэнарыя...* Місько. *Ад Сідаравай формы хутка засталіся рожкі ды ножкі. Ды мы ўжо і самі навучыліся рабіць любую форму: для лыжак, місак і нават для чыгункоў.* Жычка. *— Шукаць трэба сваіх хутчэй, — сказаў Кравец, пажылы кулямётчык.. Грэчка панура адгукнуўся: —А што там!.. Можа — рожкі ды ножкі...* Мележ. *Праз які тыдзень з яго [трактара] пачынаюць знікаць часткі. А праз месяц — ад трактара, як ад таго козліка, застаюцца рожкі ды ножкі.* Сіняўскі.

**У Р`ОЖКІ** *з кім. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Уступаць у сутычку з кім-н. **Сін**.: брацца за чубы (у 2 знач.); брацца загрудкі *з кім* (у 2 знач.); брацца ў рожкі *з кім. Сярод маладнякоўцаў нават хадзячы лозунг бытаваў:* «У *рожкі са старымі». «Старыя» глядзелі на маладых задзёр хто з крыўдай, а хто з іроніяй: пагглядзім, маўляў, што яшчэ з вас саміх атрымаецца.* Крапіва. *Ці праўда тое, жвенькаюць людзі, дужа ён [поп] жыла вялікая і з пападдзёй у рожкі заўсёды.* Лынькоў. *Прывыкшы ў рожкі з сваякамі, ён [Вінцусь] тут жа вытыркаўся ўвесь: —Народ кусок бярэ рукамі! Народ відэльцамі не есць!* Гілевіч.

*РОЗНАСЦЬ* ● **Р`ОЗНАЯ Р`ОЗНАСЦЬ.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм.* Самыя разнастайныя рэчы, прадметы. **Сін**.: усякая ўсячына (у 1 знач.). *Апісаць не хопіць слоў, што за Сару той Абрам рознай рознасці набраў.* Крапіва.

*РОЗНАЯ* ● **РОЗНАЯ РОЗНАСЦЬ.** Гл. рознасць.

*РОЗНЫХ* ● **НА РОЗНЫХ МОВАХ** *гаварыць.* Гл. мовах.

**СКЛАНЯЦЬ У РОЗНЫХ СКЛОНАХ** *каго, што.* Гл. скланяць.

*РОЗУМ* ● **БРАЦЦА ЗА РОЗУМ .** Гл. брацца.

**БРАЦЬ НА РОЗУМ** *што.* Гл. браць.

**НА Д`ОБРЫ Р`ОЗУМ .** *Акал. Разм.* Разважаючы цвяроза, разумна. *Узяць таго ж Макара Чаго, на добры розум, сядзець яму ў тым голым стэпе? Яшчэ б меў якую важнецкую работу, а то звычайны шафёр.* Блакіт. *Як на добры розум, трэба было пачакаць якой паўгадзіны, пакуль не растане град.* Шахавец.

**ПАЙСЦІ Ў ГАЛАВУ ПА РОЗУМ .** Гл. пайсці.

**Р`ОЗУМ ЗА Р`ОЗУМ ЗАХ`ОДЗІЦЬ (ЗАЙШ`ОЎ, З`ОЙДЗЕ; ЗАСК`ОКВАЕ, ЗАСК`ОЧЫЎ, ЗАСК`ОЧЫЦЬ)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. не можа разумна разважаць або дзейнічаць. *—Ніводзін цар не ездзіў каранавацца верхам на свінні. Бывай! —З глузду*

*з'ехаў, ці што? Ці розум за розум зайшоў?* Колас. *[Крытык] глядзіць. І што? За розум розум заскочыў туга, неўпапад. Чаго ж не ўцяміць і цвярозым, напіша — й сам смяецца, рад.* Купала.

**СХАДЗІЦЬ <ДА ГАЛАВЫ> ПА РОЗУМ.** Гл. схадзіць.

**УЗБРЫСЦІ НА РОЗУМ** *каму.* Гл. узбрысці.

*РОЗУМАМ* ● **ЖЫЦЬ СВАІМ РОЗУМАМ.** Гл. жыць.

**ЖЫЦЬ ЧУЖЫМ РОЗУМАМ.** Гл. жыць.

**ЗАДНІМ РОЗУМАМ МОЦНЫ.** Гл. моцны.

**З Р`ОЗУМАМ.** *Акал. Функц. не зам.* Абдумана, свядома, кіруючыся разумным сэнсам (рабіць што-н.). **Сін**.: з галавой (у 2 знач.); з толкам. **Ант**.: без толку (у 2 знач.); ні складу ні ладу. *Раман сказаў на дарогу сыну колькі слоў, сэнс якіх зводзіўся да таго, каб усё рабіць з розумам.* Колас. *[Зёлкін:] Не ўсякая ж костка для гэтага падыходзіць. [Нічыпар:] Я гэта разумею: і костку трэба выбраць з розумам.* Крапіва. *Гэта ізноў з розумам зроблена было: каб часцей пападзянкі ў настаўніка на воку былі...* Калюга.

**РАСКІДАЦЬ РОЗУМАМ.** Гл. раскідаць.

*РОЗУМЕ* ● **НЕ Ў СВА`ІМ Р`ОЗУМЕ.** *Вык. і азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У ненармальным псіхічным стане. **Ант**.: пры сваім розуме. *—Але, саколік, і глухая, і нямая, і так нейкая як не ў сваім розуме, — адказала Рыпіна. —Лепш, і не чапайце вы яе.* Крапіва. *Пастаяўш.ы хвілін колькі і палічыўшы, што стары не ў сваім розуме, паехалі, пацягнуліся далей цыганы.* Сачанка. *Толькі не ў саім розуме чалавек мог арыштаваць людзей з адным імем.* Баранавых. **У СВАІМ РОЗУМЕ.** З супрацьлеглым знач. — часцей у пытальных ск. *Ці ў сваім ты розуме? Хто ж гэта садзіць бульбу ў скрынках? Гэта ж не расада якая...* Якімовіч. *Ты што, у сваім розуме? Ці цвяліць мяне надумаў?* Міська.

**ПРЫ СВА`ІМ Р`ОЗУМЕ.** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У нармальным псіхічным стане. **Сін**.: у сваім розуме. **Ант**.: не ў сваім розуме. *Ці пры сваім ты розуме, чалавек? Гэта ж заўтра субота: торгу не будзе.* Калюга. *Сілашыя жыла на свеце толькі ўмоўна, хаця была пры сваім розуме...* Семашкевіч. *Гэта яна [Уліта] бараніла як магла свайго кума, даводзіла глінчанам, што Васіль пры сваім розуме, толькі вельмі ўбіваецца па жонцы.* Каліна.

*РОЗУМУ* ● **ВЫЖЫВАЦЬ З РОЗУМУ.** Гл. выжываць.

*Не магчы* **ДАБРАЦЬ РОЗУМУ.** Гл. дабраць.

**ДАХОДЗІЦЬ ДА РОЗУМУ.** Гл. даходзіць.

**ЗВОДЗІЦЬ З РОЗУМУ** *каго.* Гл. зводзіць.

**З ВЯЛ`ІКАГА Р`ОЗУМУ.** *Акал. Разм. Іран.* Здуру, па дурасці (рабіць што-н.). *[Грышка:] Пасадзіць [мама] гэтага бульдога ў*

*машыну і возіць альбо — на павадку па вуліцы водзіць... Гэта ўжо, відаць, з вялікага розуму.* Гігевіч.

**КРАНУЦЦА З РОЗУМУ.** Гл. крануцца.

**НАБІРАЦЦА РОЗУМУ.** Гл. набірацца.

**НЕ МАЙГО РОЗУМУ СПРАВА.** Гл справа.

**ПРЫХОДЗІЦЬ ДА РОЗУМУ.** Гл. прыходзіць.

**РОЗУМУ НЕ ДАБЯРУ.** Гл. дабяру.

**СЫХОДЗІЦЬ З РОЗУМУ.** Гл. сыходзіць.

*РОЛІКІ* ● **ШАРЫКІ ЗА РОЛІКІ ЗАХОДЗЯЦЬ** *у каго.* Гл. шарыкі.

*РОЛЮ* ● **АДЫГРЫВАЦЬ РОЛЮ** *<якую> у чым.* Гл. адыгрываць.

**ВЫТРЫМЛІВАЦЬ РОЛЮ** *каго, якую.* Гл. вытрымліваць.

**ІГРАЦЬ РОЛЮ.** Гл. іграць.

**УВАХОДЗІЦЬ У РОЛЮ.** Гл. уваходзіць.

*РОС* ● Нос **НА ДВА`ІХ (ДЛЯ ТРА`ІХ) Р`ОС, АДНАМ`У ДАСТ`АЎСЯ.** *У знач. прэдык. азн. Разм. Іран.* Вельмі вялікі. **Сін.**: бог семярым нёс ды аднаму дастаўся. *Я часта бачу яго [Казіса] медзведзяватую постаць.., бачу нос, з тых, што на дваіх рос, аднаму дастаўся, а колеру такога, што ад яго, як кажуць, хоць прыкурвай.* Арлоў. *На гэты твар было нават страшнавата глядзець: на ім сіне-чырвонай дуляй сядзеў агромністы нос. Пра такі нос звычайна гавораць: для траіх рос, аднаму дастаўся.* Навуменка.

*РОССЫПЕ* ● **НА Р`ОССЫПЕ**. *Азн. і вык. Разм.* Перад канцом цяжарнасці. *Любка не захацела перабрацца ў пакой баярыні-нябожчыцы, вярнулася ў свой, дзе яе, тоўстую і цяжкую, як кажуць, ужо на россыпе, апошнія дні і ночы даглядала Марыля.* Далідовіч.

*РОСТ* ● **НА (ВА) УВ`ЕСЬ Р`ОСТ.** *Акал.* **1**. *Функц. не зам.* Не прыгінаючыся, прымаючы прамую позу (стаяць, стаць, ісці, выпрастацца і пад.). *Усе ўбачылі, як раптам насустрач танкам рушылі па дарозе на ўвесь рост камандзіры.* Чыгрынаў. *Я ж і сядзеў, а вось ты забыўся, у якім чэрапе [лодцы] едзеш. Навошта стаяў ва ўвесь рост?* Маўр.

**2**. *Функц. не зам.* Ахопліваючы ўсю фігуру. Пра фатаграфію, партрэт. *Тады ж.. [Пілацеей] заказаў аднаму скульптару работу, і цераз нейкі час белая, высечаная з мармуру постаць жонкі на ўвесь рост стаяла ў садзе насупраць вокан дома.* Галавач. *З бацькі Толіка мы потым здымак на ўвесь рост знялі, для ягонага мы фота месца добрае знайшлі.* Броўка.

**3**. *Кніжн.* На ўсю сваю веліч, значэнне (адлюстраваць, паказаць, паўстаць і пад.). *Янка Купала і Якуб Колас на ўвесь рост намалявалі партрэт працоўнага беларуса і паказалі яго ўсяму*

*свету.* Крапіва. *[М.Горкі] першы ва ўвесь рост паказаў новага героя, сапраўднага гаспадара зямлі – чалавека працы.* Танк.

**4**. *Кніжн.* З усёй вастрынёй, надзённасцю, сур'ёзнасцю (ставіцца, паўстае праблема, задача, пытанне і пад.). *Задача — развіццё сельскагаспадарчае прамысловасці — паўстае зараз тут ва ўвесь рост.* Чорны. *Цяпер, калі ў рэспубліцы нямала робіцца для паглыбленага вывучэння творчасці класікаў беларускай літаратуры, на ўвесь рост паўстала задача — асэнсаваць нашу нацыянальную літаратуру як частку сусветнай літаратуры.* Барсток.

**5**. *Кніжн.* Поўнасцю, як і належыць (развілося што-н., абудзілася і пад.). *Словам, гаспадар абудзіўся ў Мікіце ва ўвесь рост.* Колас.

*РОСТАНЯХ* ● **НА Р`ОСТАНЯХ** *быць, застацца* і пад. *Вык. і акал. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У стане сумнення, хістанняў, у нерашучасці перад выбарам чаго-н. **Сін**.: на раздарожжы. У *яго [Лабановіча] цяпер не было ніякага акрэсленага шляху, ён проста апынуўся на ростанях, выбіты з каляіны так ці іначай усталёванага жыцця.* Колас. *Проста раней яго [Грынкевіча] вершы былі бясхмарнымі.., патыхалі нейкай чыстай яснасцю і халаднаватасцю. А гэта смерць для паэта. І ён зразумеў гэта, і зараз стаіць на ростанях, не ведаючы, што і як пісаць.* Караткевіч. *Паэт не застаўся на ростанях, а абраў для сябе, бадай, адзіна правільны шлях...* «ЛіМ».

*РОСЧЫРКАМ* ● **АДН`ЫМ Р`ОСЧЫРКАМ ПЯР`А.** *Акал. Функц. не зам.* Не ўнікаючы ў сутнасць справы, без дзейных адносін да каго-, чаго-н. (рабіць, зрабіць што-н.). *Мяцельскі.. папярэдзіў, што і начальнік упраўлення, і партыйнае бюро бяруцца адным росчыркам пяра вырашыць лёс вялікай колькасці людзей...* Радкевіч. *І недасведчанаму чалавеку зразумела, што гэта не зробіш адным росчыркам пяра, спатрэбіцца вялікая арганізатарская работа, нарэшце, матэрыяльныя затраты.* «ЛіМ».

*РОТ* ● **АДКРЫВАЦЬ РОТ.** Гл. адкрываць.

**БРАЦЬ РОТ НА ЗАМОК.** Гл. браць.

**ГЛЯДЗЕЦЬ У РОТ** *каму.* Гл. глядзець.

**ЗАКРЫВАЦЬ РОТ** *каму.* Гл. закрываць.

**ЗАЛІВАЦЬ РОТ** *<чым> каму, каго.* Гл. заліваць.

**ЗАМАЗАЦЬ РОТ** *каму.* Гл. замазаць.

**ЗАТЫКАЦЬ РОТ** *каму.* Гл. затыкаць.

**З НОСА КАП, А Ў РОТ ХАП.** Гл. носа.

**Л`ІШНІ Р`ОТ.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм.* Чалавек, які абцяжарвае іншых як ядок. *Бацькі Агаты былі задаволены тым,*

*што ім удасца збыць з рук літні рот, бо гаспадарка ў іх была невялікая.* Нёманскі. *Якая ты яшчэ дзеўка, га? Гэта ў наш час, бывала, у шаснаццаць замуж аддавалі, каб рот лішні збыць.* Гіль. *Раніцой зноў вырашалі лёс немца. Навошта лішні рот? Харчу на адзін дзень, не больш. Большасцю галасоў вырашылі адпусціць...* Шамякін.

**НА П`ОЎНЫ Р`ОТ** <u>есці, жаваць</u> і пад. *Акал. Разм.* Прагна, з прагнасцю, папоўніцы. **Сін**.: аж за вушамі трашчыць; аж нос гнецца; за абедзве шчакі; за маліну (у 1 знач.); на поўную губу (у 2 знач.); на ўвесь рот (у 1 знач.). **Ант**.: як на плот вешаць. *Употайкі, каб ніхто не бачыў, прадраў Мішка мяшок і на поўны рот пачаў паціхеньку ласавацца цукрам.* Лынькоў. *Яша не вытрымаў і падкалоў аднойчы Бахілку, які, налаташыўшы яблыкаў, еў іх на поўны рот.* Навуменка. *Ядуць смачна, на поўны рот, густую, аж язык вяжа, кашу.* М.Капыловіч.

**НА ЎВ`ЕСЬ Р`ОТ.** *Разм.* **1**. *Акал.* Прагна, папоўніцы. **Сін**.: аж за вушамі трашчыць; аж нос гнецца; за абедзве шчакі; за маліну (у 1 знач.); на поўную губу (у 2 знач.); на поўны рот. **Ант**.: як на плот вешаць. *Са смакам [Ігар і Нона] елі яйкі, смятану, мяса, уплятали на ўвесь рот варэнікі і запівалі іх малаком.* М.Капыловіч.

**2.** *Акал.* Шырока, прыветліва (смяяцца, усміхацца). **Сін**.: на ўсе застаўкі (у 5 знач.); на ўсе трыццаць два <зубы>. *Бацьку свайго яна [Глаша] ведала толькі па фатаграфіі, дзе ён на ўвесь рот смяяўся.* Адамовіч. *Дзядзька Якуб, як толькі ўгледзеў Ілью, на ўвесь рот заўсміхаўся, паказваючы рэдкія жоўтыя зубы.* Васілёнак. *З кабінкі на ўвесь рот смяецца Алег.* Мыслівец.

**3.** *Азн.* Шырокая, прыветлівая (усмешка). *Віктарава галава ў вянку распатланых валасоў... І ўсмешка на ўвесь рот.* Кудравец.

**НЕ БРАЦЬ У РОТ** *што, чаго.* Гл. браць.

**НЕ ЛЕЗЕ Ў РОТ.** Гл. лезе.

**ПАВЕСІЦЬ ЗАМОК НА РОТ** *каму.* Гл. павесіць.

**ПАВЕСІЦЬ <САБЕ> ЗАМОК НА РОТ.** Гл. павесіць.

**ПАЛЬЦА Ў РОТ НЕ КЛАДЗІ** *каму.* Гл. кладзі.

<u>*Турбот, клопатаў*</u> **П`ОВЕН (П`ОЎНЫ) Р`ОТ.** У *безас. ужыв. Разм.* Вельмі многа (турбот у каго-н.). **Сін**.: адбою няма *ад каго* (у 2 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў*

*каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. Трэба было мець смякалку у руках дзяржаць Міхалку, пад сваім аховам, і Таклюсю, і Мар'янку, — проста з самага ўжо ранку навучай іх словам. Ну, як бачыце, турбот у Мікіты повен рот.* Колас. *Няхай хто маладзейшы з'ездзіць... Сваіх турбот повен рот.* Праскураў. *Выехаць трэба на досвітку. У мяне яшчэ ў Глыбокім клапот поўны рот.* Машара. *Пастукаў Новы год — клопатаў поўны рот.* Аношкін.

**ПРОСІЦЦА Ў РОТ.** Гл. просіцца.

**РАЗЖОЎВАЦЬ І Ў РОТ КЛАСЦІ** *каму*. Гл. разжоўваць.

**РАЗЯЎЛЯЦЬ РОТ.** Гл. разяўляць.

**РАСКРЫВАЦЬ РОТ.** Гл. раскрываць.

**Р`ОТ ДА ВУШ`ЭЙ** *у каго. У безас. ужыв. Разм. Іран.* Хто-н. выразам твару выказвае выключнае задавальненне чым-н. *А вунь і Міця... Рот да вушэй. Рады, што цябе ўбачыў...* Кудравец. *А я падумала: чаго такі радасны Чыж? Спаткала раніцай, дык у яго рот да вушэй.* Алешка.

**Р`ОТ <НІК`ОЛІ> НЕ ЗАКРЫВ`АЕЦЦА** *ў каго. Цяп. і пр. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. любіць многа гаварыць ці спяваць. **Сін**.: жаба на языку не спячэцца *ў каго*; слабы на язык; язык без касцей *у каго*; язык доўгі *ў каго*; язык каля вушэй матляецца *ў каго*; язык меле *чый*; язык па-за вушамі ходзіць *у каго. Галька раптам з'ехала ў Карэлію на лесавал, з'ехала разам з Хокам, шафёрам з Дыдулёў, у якога, як жартавалі жанчыны, рот ніколі не закрываўся — такі чалавек, лёгкі быў на язык.* Сіпакоў. *—Гэта твой язык махаецца і направа і налева, дурань, — адказаў Сідар, не пазіраючы на Антося... —У цябе і рот не закрываецца, пустальга.* Чарнышэвіч.

**ТРЫМАЦЬ РОТ НА ЗАМКУ.** Гл. трымаць.

**<ЯК> ВАДЫ Ў РОТ НАБРАЎ.** Гл. набраў.

**ЯК ВАДЫ Ў РОТ НАБРАЎШЫ.** Гл. набраўшы.

*РОТА* ● **ЗАТЫКАННЕ РОТА.** Гл. затыканне.

**ЗАЦІСКАННЕ РОТА.** Гл. заціскання.

**І ПАРЫ З РОТА НЕ ПУСЦІЦЬ.** Гл. пусціць.

**МІМА РОТА НЕ НЕСЦІ.** Гл. несці.

**ПА САБАКУ З РОТА СКАЧА** *ў каго.* Гл. скача.

*РОТАМ* ● **РОТАМ ГЛЯДЗЕЦЬ.** Гл. глядзець.

*РОЎНА* ● **УСЁ РОЎНА.** Гл. усё.

**УСЁ РОЎНА ЯК.** Гл. усё.

*РОЎНАЙ* ● **НА РОЎНАЙ НАЗЕ** *з кім.* Гл. назе.

*РОЎНАСЦІ* ● **СТАВІЦЦА ЗНАК РОЎНАСЦІ** *паміж кім, паміж чым.* Гл. знак.

**СТАВІЦЬ ЗНАК РОЎНАСЦІ** *паміж кім, паміж чым.* Гл. ставіць.

*РОЎНІЦУ* ● **СТАВІЦЬ НА АДНУ РОЎНІЦУ** *каго з кім, што з чым, каго і каго, што і што.* Гл. ставіць.

*РОЎНУЮ* ● **НА РОЎНУЮ НАГУ** *з кім.* Гл. нагу.

*РОЦЕ* ● **І КРОШКІ Ў РОЦЕ НЕ БЫЛО** *ў каго.* Гл. было.

**МАКАВАЙ РАСІНКІ Ў РОЦЕ НЕ БЫЛО** *ў каго.* Гл. было.

**РАСЦЕ Ў РОЦЕ.** Гл. расце.

**У РОЦЕ РАСТАЕ.** Гл. растае.

**ЧОРНА Ў РОЦЕ** *ў каго.* Гл. чорна.

**ЯЗЫК У РОЦЕ НЕ МЕСЦІЦЦА** *ў каго.* Гл. язык.

*РУБ* ● **НЕ ВОЗЬМЕШ ЗА РУБ ДВАЦЦАЦЬ** *каго.* Гл. возьмеш.

**Р`УБ ДВ`АЦЦАЦЬ.** *Часцей азн. Разм. Іран.* Кульгавы. *Так навучаў мяне кульгавы Валадым, сусед па прозвішчу «руб дваццаць».* Вітка. *Ілюк двойчы асцярожна ступіў да яго на прыступках — «руб дваццаць, руб дваццаць...». Падаў Мікульскаму руку.* Місько.

*РУБАМ* ● **СТАВІЦЬ ПЫТАННЕ РУБАМ.** Гл. ставіць.

*РУБАНУЦЬ* ● **РУБАНУЦЬ З ПЛЯЧА.** *Зак. да* **РУБІЦЬ З ПЛЯЧА.**

**РУБАНУЦЬ ПАД КОРАНЬ** *каго, што. Зак. да* **РУБІЦЬ ПАД КОРАНЬ** *каго, што.*

*РУБЕЛЬ* ● **Д`ОЎГІ (ДАЎГ`І) РУБ`ЕЛЬ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Вялікі, але лёгкі заробак. *Калектыў на заводзе вялікі, і, вядома, людзі розныя. Ёсць і такія, якім доўгі рубель усё жыццё засланяе.* Васілеўская. *Хіба ж не яго [Тамаша] папракаюць сыны кожны дзень, як незнарок во гэты Рыгор. Даўгі рубель, лёгкае жыццё, часам паўлітэрка ў забягалаўцы. Цьфу!* Лупсякоў. *«І гэтаму не церпіцца, — уздыхнуў Лузько. —Канешне, навошта яму гэтая нафта? Ён, як і многія, дзеля доўгага рубля сюды прыйшоў».* Гаўрылкін.

**НЕ ВОЗЬМЕШ ЗА РУБЕЛЬ ДВАЦЦАЦЬ** *каго.* Гл. возьмеш.

*РУБІКОН* ● **ПЕРАХОДЗІЦЬ РУБІКОН.** Гл. пераходзіць.

**РУБІК`ОН ПЯР`ОЙДЗЕНЫ.** *Часцей ужыв. як самастойны ск. Кніжн.* Адказны, рашаючы крок зроблены, прынята беспаваротнае рашэнне. *Не шкадую я аб згубленым, рад таму, што знойдзена. З кубка мудрасці прыгублена, рубікон пяройдзены.* Звонак. *—Гэта больш надзейна,— сказаў Зімін,— а то яшчэ перадумаеш [звальняцца]... Рубікон пяройдзены, назад ходу няма.* Хомчанка.

*РУБІЦЬ* ● **РУБІЦЬ З ПЛЯЧА.** Гл. секчы.

**РУБІЦЬ ПАД КОРАНЬ** *каго, што.* Гл. секчы.

**РУБІЦЬ СУК, НА ЯКІМ СЯДЗІШ.** Гл. секчы.

*РУБЛЁМ* ● *За* **Д`ОЎГІМ (ДАЎГ`ІМ) РУБЛ`ЁМ** *ехаць, гнацца, паехаць, пагнацца* і пад. *Дап. Разм. Неадабр.* (За) вялікім, але лёгкім заробкам. *[Кавальчук:] І я паехаў сюды з ахвотаю. Не за доўгім рублём, не-е!..* Макаёнак. *Не з-за прыгод якіх там-небудзь, не за даўгім рублём якім, а ехалі па скібку хлеба ў край далёкі землякі.* Барадулін. *Шафёры леспрамгаса па тым часе добра зараблялі. Але ён [Мікалай] у леспрамгас не пайшоў, за доўгім рублём не пагнаўся.* Навуменка.

**ЯК РУБЛЁМ ПАДАРЫЎ.** Гл. падарыў.

*РУБЛЁЎ* ● *Не хто, а* **СТ`О РУБЛ`ЁЎ НЯСТ`АЧЫ.** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адны непрыемнасці з-за каго-н. *Не мужык, а сто рублёў нястачы. У Каноцкіх нядаўна набраўся на памінках, як той дурань.* Клебановіч. *– Данік, ты не чалавек, а сто рублёў [нястачы]! –зазначыла Кардашыха.* Якавенка.

*РУБЦА* ● **СУХОГА РУБЦА НЯМА** *на кім.* Гл. няма.

*РУДАЯ* ● **ЯК РУДАЯ МЫШ.** Гл. мыш.

*РУЖАНЦА* ● **І ДА ТАНЦА І ДА РУЖАНЦА.** Гл. танца.

**НІ ДА ТАНЦА НІ ДА РУЖАНЦА.** Гл. танца.

*РУЖЖА* ● **ЯК З РУЖЖ`А.** *Акал. Разм.* Вельмі моцна (хочацца есці, курыць і пад.). *—Эх, і курыць хочацца як з ружжа, — пашкадаваў першы [партызан] і ўцягнуў паветра.* Карпаў.

2. Вельмі хутка і нечакана (сказаць што-н.). *У кантору лясніцтва прыбег адзін з леснікоў і выпаліў як з ружжа: —Бяда, ва ўрочышчы «Жабін бок» парубкі.* Лынькоў.

*РУЖЖО* ● **ПАД РУЖЖ`О** *ставіць (паставіць), прызываць* і пад. *Акал. Функц. не зам.* У стан мабілізацыйнай ці баявой гатоўнасці. *Каб то які раптоўны выпадак, калі ўсім трэба станавіцца пад ружжо, тады, я разумею, не павінна быць ніякіх адгаворак... А ў нас справа ідзе ўсяго аб двух таварышах...* Гартны. *Навошта ехаць у Смаленск? Паставіўшы партызан і рэзервістаў пад ружжо, самі з*

*бандытамі саўладаем.* Гурскі.

**У РУЖЖ`О!** *Выкл. Функц. не зам.* Каманда стаць у строй са зброяй ці быць гатовым пачаць бой. *[Алесь:] Вось што. Атрад — у ружжо! Зараз жа! Пастроіш сваіх людзей уздоўж усяго перона вунь на тым, супрацьлеглым, баку.* Шлег. *—У ружжо! На пасту трывога! — крыкнуў камандзір.* Жураўскі. *Аднекуль данеслася поўная трывогі і заклік у каманда «ў ружжо!»* Карпаў.

*РУЖЖОМ* ● **ПАД РУЖЖ`ОМ** *быць, знаходзіцца* і пад. *Акал. Функц. не зам.* На ваенным становішчы, у стане баявой гатоўнасці. *Зараз у Расіі пад ружжом шаснаццаць мільёнаў чалавек.* Гурскі.

*РУЖОВЫ* ● **РУЖОВЫ ТУМАН.** Гл. туман.

*РУЖОВЫМ* ● **У РУЖОВЫМ СВЯТЛЕ.** Гл. святле.

*РУЖОВЫМІ* ● **МАЛЯВАЦЬ РУЖОВЫМІ ФАРБАМІ** *каго, што.* Гл. маляваць.

*РУЖОВЫХ* ● **МАЛЯВАЦЬ У РУЖОВЫХ КОЛЕРАХ** *каго, што.* Гл. маляваць.

*РУЖОВЫЯ* ● **ГЛЯДЗЕЦЬ ПРАЗ РУЖОВЫЯ АКУЛЯРЫ** *на каго, на што.* Гл. глядзець.

**РУЖОВЫЯ АКУЛЯРЫ.** Гл. акуляры.

*РУК* ● **АБЫ ЗБЫЦЬ З РУК.** Гл. збыць.

**АБ`Ы З Р`УК.** *Акал. Разм. Неадабр.* Вельмі нядбала, недабраякасна, без ахвоты і старання (працаваць, рабіць і пад.). **Сін**.: абы дзень адбыць; абы дзень да вечара (у 1 знач.); з плеч ды ў печ (у 2 знач.); з пятага на дзесятае (у 2 знач.); па канец рук; праз пятае ў дзесятае (у 2 знач.); пусці павалюся (у 2 знач.); спусціўшы рукавы; сяк-так (у 2 знач.); сяк-так накасяк <абы не па-людску>; цапам-лапам; цапу-лапу; цераз пень калоду (у 1 знач.); цяп ды ляп. **Ант**.: душы паслухаючы; з аганьком; закасаўшы рукавы; не пакладаючы рук. *Нібыта клятву далі Кавалькі — не рабіць абы з рук.* Карамазаў. *Раней як было: адзін трактарыст сумленна рабіў, а другі — абы з рук.* «Маладосць».

**АДБІВАЦЦА АД РУК.** Гл. адбівацца.

**ВАЛІЦЦА З РУК.** Гл. валіцца.

**ВЫБІВАЦЬ КОЗЫРЫ З РУК** *каго, у каго.* Гл. выбіваць.

**ВЫКРУЧВАННЕ РУК.** Гл. выкручванне.

**ВЫПУСКАЦЬ З <СВАІХ> РУК.** Гл. выпускаць.

**ВЫПУСКАЦЬ ЛЕЙЦЫ З <СВАІХ> РУК.** Гл. выпускаць.

**ДАВАЦЬ ДЫ З РУК НЕ ПУСКАЦЬ** *што.* Гл. даваць.

**ЗАСТАВАЦЦА БЕЗ РУК.** Гл. заставацца.

**ЗБЫВАЦЬ З РУК.** Гл. збываць.

**З ДРУГ`ІХ (ТР`ЭЦІХ) Р`УК.** *Акал. Разм.* **1**. Праз пасрэднікаў, не

ад сведкі непасрэдна (чуць, даведвацца і пад.). **Сін**.: з другіх вуснаў. **Ант**.: з першых вуснаў; з першых рук (у 1 знач.). —*Ты знаёмы з яго задумкамі, галоўны?.. —Збольшага... Крыху — ад яго самога, крыху з трэціх рук.* Карпаў. *Я толькі нядаўна сам, як кажуць, з трэціх рук дазнаўся, што такія пісьмы даўно пішуць.* Праскураў.

**2**. Праз перакупшчыка, не ад уладальніка непасрэдна (купляць, трапляць і пад.). **Ант**.: з першых рук (у 2 знач.). *Гэта былі ўжо нават не дубраўцы, а прыезджыя, і хату яны куплялі таксама з другіх рук.* Чыгрынаў. *Наколькі [сабака] быў чыстапародны — невядома, бо трапіў да Андрэя з трэціх рук.* Шахавец.

**З К`АТНІХ Р`УК** <u>прыйсці (прыходзіць).</u> *Акал. Разм.* Невядома адкуль. *Пра чалавека з невядомым мінулым і няпэўнымі паводзінамі ў сучасным, якому, аднак, даверылі важлівую справу, [Дубавец] мог сказаць: —Прыйшоў сюды з катніх рук, а ты яму вер.* Караткевіч. [Выраз фіксуецца ў «Слоўніку беларускай мовы» І.І.Насовіча, с. 231, 629.]

**З П`ЕРШЫХ Р`УК.** *Акал. Разм.* Непасрэдна ад сведкі, відавочніка; з самых дакладных крыніц (атрымліваць якую-н. інфармацыю, даведвацца, чуць і пад.). **Сін**.: з першых вуснаў. **Ант**.: з другіх вуснаў; з другіх рук (у 1 знач.). *Я пра вашы падпольныя дзеянні нічога Алесю Раманавічу не гаварыў. Рашыў, што яму лепей узяць інфармацыю з першых рук.* Новікаў. *Матэрыялы, атрыманыя, як кажуць, з першых рук, тут жа апрацоўваліся і ішлі ў газету.* «Полымя».

**2**. Непасрэдна ад уладальніка, не праз перакупшчыка (купляць, набываць). **Ант**.: з другіх рук (у 2 знач.). «*Лепш купляць з першых рук» — сказаў Іліко, слова ў слова паўтараючы тое, што ўчора ўвечары чуў у духане.* Самуйлёнак.

**З Р`УК** *чыіх, каго* <u>вырваць, выкруціцца</u> і пад. *Акал. Функц. не зам.* З-пад чыёй-н. улады, залежнасці. **Сін**.: з кіпцюроў *чыіх, каго*; з лап *чыіх, каго. У Карзюковых руках быў Косцік. Цяпер Косцік, як той уюн, выслізнуў з яго рук.* Баранавых. *Ром і Якшэвіч.. потым паклалі шмат энергіі і патрацілі шмат часу, каб вырваць [арыштаваную] з рук акупантаў.* Гарэцкі.

**З Р`УК** <u>купляць, прадаваць</u>. *Акал. Разм.* Не ў магазіне. *Для сваіх жа рабочых стараліся [Дзёміч і Мотуз]. Каб не бегалі выхаднымі днямі на рынак, не куплялі з рук па дарагой цане тое, што маглі атрымаць на заводзе.* Мыслівец. *Аўтары фільма звярнуліся да тых, хто ідзе цяпер па вуліцы і не разважаючы можа з рук тут жа купіць каробку «Асарці», што не так даўно вынесена з фабрыкі.*

«Звязда».

**З РУК ВОН.** Гл. вон.

**З РУК ВОН** *дрэнна.* Гл. вон.

**З РУК ІРВАЦЬ** *што.* Гл. ірваць.

**З Р`УК НА Р`УКІ** *передаваць, здаваць.* *Акал. Функц. не зам.* Непасрэдна каму-н. **Сін**.: з рук у рукі (у 1 знач.). *Сёння мы перадаём [Гудовіча] з рук на рукі нашым баявым сябрам...* Крапіва. *Каб не прапалі дзе на пошце ці не згубіліся ў дарозе, дакументы на паступленне вырашана занесці і здаць з рук на рукі ў самім педтэхнікуме.* Васілевіч.

**З Р`УК У Р`УКІ.** *Акал. Функц. не зам.* **1**. Непасрэдна каму-н. (перадаваць, здаваць, аддаваць). **Сін**.: з рук на рукі. *Марына адвяла Лену ў адну хату і з рук у рукі, што называецца, перадала дзяўчыну маладой сялянцы.* Лынькоў. *Сёмка скрутак папер выцягнуў з-за пазухі і арыштаванага з рук у рукі здаў.* Лобан.

**2**. Ад аднаго да другога, ад адных да другіх (хадзіць, пераходзіць, перадаваць і пад.). *Так і ходзіць з рук у рукі лістоўка ці газета, якая невядома адкуль трапіла ў салдацкую кішэню.* Грахоўскі. *Я даю кнігі дзецям і дарослым, і як добра потым чуць, што кнігі вандруюць з рук у рукі ў далёкія вёскі.* Брыль. *Людзі перадавалі з рук у рукі лістоўкі, брашуры...* Шкраба.

**3**. У валоданне то да аднаго, то да другога напераменку (пераходзіць у часе ваенных дзеянняў). Пра горад, вёску і пад. *Пашанцавала старажытнаму Выбаргу. Асабліва калі ўлічыць, што за апошнія чатыры гады ён трэці раз пераходзіць з рук у рукі.* Навуменка. *Сёлы пераходзілі з рук у рукі па некалькі разоў на тыдзень.* Грахоўскі. *З рук у рукі царква пераходзіць, адсюль агонь карэкціруе вораг.* Барадулін.

**ІСЦІ МІМА РУК.** Гл. ісці.

**КОЗЫР ВЫБІТЫ З РУК** *каго, чыіх.* Гл. козыр.

**НЕ МІНУЦЬ РУК** *чыіх.* Гл. мінуць.

**НЕ ПАКЛАДАЮЧЫ РУК.** Гл. пакладаючы.

**НЕ ЧУЦЬ НІ РУК НІ НОГ.** Гл. чуць.

**НЕ ЧУЦЬ РУК.** Гл. чуць.

**ПА КАНЕЦ РУК.** Гл. канец.

**ПАЦІРАННЕ РУК.** Гл. паціранне.

**РУК НЕ ПАДКЛАДЗЕШ** *пад каго.* Гл. падкладзеш.

**СЫХОДЗІЦЬ З РУК** *каму.* Гл. сыходзіць.

**УМЫВАННЕ РУК.** Гл. умыванне.

**ЯК БЕЗ Р`УК** *без каго, без чаго. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зусім бездапаможны. **Сін**.: не ступіць кроку (у 2 знач.).

*Усе сцягнуліся бліжэй адзін да аднаго, людзей нібы пабольшала, але што ж, калі без патронаў як без рук...* Гарэцкі. *Гэта тып інтэлігента з народа, якіх мала, якія дужа патрэбны, без якіх мы шмат у чым як без рук.* Галавач. *—Не ўсім, брат, з намі быць, пачакай, — шапчу я. —Дзядзька Ігнат і ў хаце сядзіць, ля дзяцей, а мы без яго як без рук.* Брыль. *Без коней я як без рук.* М.Капыловіч.

*РУКА* ● **АДН`А РУК`А** *<з кім>. Мн. не ўжыв. Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Вельмі дружныя, аднадушныя, аднадумцы. *А пасля ж вайны калгасны старшыня, сельсавецкі і ён, дырэктар школы, — адна рука была, рашалі і вяршылі і калгасныя, і сельсавецкія справы.* А.Жук. *Ён то, браце, не вельмі і баіцца таго вока. З начальствам адна рука...* Лецка.

**ВАЛАС`АТАЯ РУК`А**. *Разм. Неадабр.* **1.** *Часцей адз. У ролі розных чл. ск.* Актыўнае садзейнічанне, аказанне пратэкцыі; блат. *У аспірантуру [Краснянскі] прыйшоў не з камсамола і, здаецца, без валасатай рукі.* Быкаў. *Слабое мліва з языка, хай дэмакрытык лахае. Ды валасатая рука – апора партамафіі.* Барадулін. *Мікола напісаў мне з болем, што «ўсюды валасатыя рукі робяць сёння надвор'е, таму сумна і балюча назіраць за ўсім гэтым».* В.Ткачоў.

**2.** *у каго дзе. У безас. ужыв.* Хто-н. мае заступніка, які можа пасадзейнічаць, аказаць падтрымку. **Сін.**: свая рука *ў каго дзе. У яго ў раёне і валасатая рука ёсць: брат намесніка старшыні райвыканкама працуе.* Я.Галубовіч. *Хіба такую школу не праходзяць усе пачаткоўцы, у каго ў свой час пры размеркаванні не было валасатай рукі?* Бязлепкіна. *Каб хоць крыху застрахавацца ад такіх пагроз, давялося нават схлусіць, пусціць чутку, што ў мяне ў ЦК КПСС ёсць валасатая рука.* Законнікаў.

**Л`ЁГКАЯ РУК`А** *ў каго. Мн. не ўжыв. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. прыносіць шчасце, поспех, удачу ў чым-н. **Ант**.: цяжкая рука *ў каго. —У вас рука лёгкая,— Ніла Маркаўна паўтарала гэта заўсёды, калі Кацярыне Кірылаўне даводзілася рабіць аперацыю.* Асіпенка. *—Цяпер загоіцца,— упэўнена кажа дзед і складае свае прычындалы ў капшук. —У мяне лёгкая рука.* Гардзей. *Прышлюць якога майстра-ламайстра... Паклікаць лепш Сямёна з першага пад'езда, у яго, кажуць, рука лёгкая.* Аношкін.

**НЕ РУК`А** *каму. Устар. У безас. ужыв. Разм.* Нявыгадна, не адпавядае чыім-н. намерам, інтарэсам. **Ант**.: з рукі *каму* (у 1 знач.); пад руку *каму. [Мікіта:] Альбіну сватаць нам, Мікола, не рука.* Клімковіч. *Знаць, любіць не рука нам, патомкам мужыцкім, ды*

*панскіх дачок.* Купала.

**ПАХАДЗ`ІЛА РУК`А** *чыя, каго*; **ПАХАДЗ`ІЛІ Р`УКІ** *чые, каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. зрабіў штосьці, пакінуў пасля сябе след. *Зірнула — усё параскідана, усё павернута ўверх дном. І пахадзіла ж рука пана!* Колас. *Вельмі прыемна бывае, калі.. у гэтую раскошную глухамань урэжацца раптам клін палавеючага духмянага жыта або цвітучай бульбы. Знак, што і тут пахадзіла рука чалавека...* Брыль. *Узяла [Зося] у рукі праклятыя вяровачкі, глянула, і рукі апусціліся, задрыжалі: не самі парваліся вяровачкі, пахадзілі каля іх нечыя рукі.* Крапіва. *У Лявонавай хаце прыбрана, як перад святам: чыста, утульна, светла. Па ўсім відаць, што ўчора тут пахадзілі дзявочыя рукі.* Макаёнак.

**ПР`АВАЯ РУК`А** *чыя, каго, у каго. Мн. не ўжыв. Функц. не зам. Часцей вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Першы памочнік, найбліжэйшы паплечнік, супольнік. *За апошні час ён [Якуб] значна падрос і быў праваю рукою дзядзькі Марціна.* Колас. *[Каравай:] Малайчына хлопец! Апроч таго, што ён мая правая рука, мой шафёр, ад'ютант, саветнік і дамарошчаны філосаф-завочнік, ён яшчэ... сёння проста подзвіг адмачыў.* Макаёнак. *Дзям'ян у старшыні рукою правай быў...* Корбан.

**РУК`А АБ РУК`У.** *Акал. Функц. не зам.* **1**. Узяўшыся за рукі (ісці, гуляць, трымацца і пад.). **Сін**.: рука ў руку (у 1 знач.). *Уявіла [Аляксана], як яна пойдзе з такім чалавекам рука аб руку, і ад хвалявання затуманілася галава.* Місько.

**2**. *<з кім>.* Разам, аднадушна, як аднадумцы (жыць, працаваць, дзейнічаць і пад.). **Сін**.: плячо к плячу (у 2 знач.); плячо ў плячо (у 2 знач.); рука ў руку (у 2 знач.). *У хвалях сну адмывалася яна [Ганна] ад усяе шумы, брыды, здзеку, агіднай абразы, пасланых на яе тым, хто меўся рука аб руку з ёй ісці праз усё жыццё.* Дубоўка. *На камбінатах рука аб руку з беларусамі працуюць пасланцы многіх братніх народаў краіны.* «Полымя».

**РУК`А НАБ`ІТА (-Я)** *у каго, чыя на чым, у чым. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. мае вялікі вопыт, добры навык, спрактыкаванасць у чым-н. *У Клопава на будаўніцтве, што называецца, рука набіта.* Дуброўскі. *Рука ў цябе набіта, і ты пісаў «маралі» без адзінага факта, «з галавы», разважаў над пісьмамі чытачоў...* Кацюшэнка. *Рука ў вас набітая. Ці не пішаце вы самі што-небудзь — вершы або апавяданні? Прызнайцеся...* С.Александровіч.

**РУК`А НЕ ЗАДРЫЖ`ЫЦЬ (НЕ ЗДРЫГАН`ЕЦЦА, НЕ ЎЗДРЫГН`Е)** *у каго, чыя. Цяп. і пр. У безас. ужыв. Разм.* У каго-н. хопіць рашучасці, смеласці (зрабіць што-н.). *Не задрыжала рука [у*

*кіраўнікоў вытворчага аб'яднання], калі афармлялі фіктыўныя нарады на рамонтныя работы, не чырванелі іх твары, калі нахабна прысвойвалі заработную плату.* «Звязда». *[Наталля Аляксееўна] пазабівала б іх [казапасаў] усіх да аднаго, і рука ў яе не здрыганулася б. Але гэта быў толькі адчай зняважанага, бездапаможнага чалавека.* Васілевіч. — *Ось што будзе з кожным! — крычыць Сахно. — З кожным панікёрам і ныцікам! У мяне рука не ўздрыгне.* Быкаў.

**РУКА НЕ ПАДЫМ`АЕЦЦА (НЕ ПАДНІМ`АЕЦЦА)** *у каго, чыя*; **Р`УКІ НЕ ПАДЫМ`АЮЦЦА (НЕ ПАДНІМАЮЦЦА)** *у каго, чые. Цяп., пр. і буд. У безас. ужыв. Разм.* **1**. *на каго.* У каго-н. не хапае рашучасці ўдарыць, забіць каго-н. **РУКА ПАДЫМАЕЦЦА (ПАДНІМАЕЦЦА)** *у каго, чыя*; **РУКІ ПАДЫМАЮЦЦА (ПАДНІМАЮЦЦА)** *у каго, чые. Часцей у пытальных ск.* З супрацьлеглым знач. *[Старая:] Твая маці шосты гадок у сырой зямлі косці парыць... Яе я ніколі не лупцавала, а на цябе няўжо рука паднімецца?* Іпатава.

**2**. *Часцей ужыв. ў спалучэнні з інф.* Не хапае рашучасці (зрабіць што-н.). *Вельмі мне хацелася навучыцца апрацоўваць допісы так, каб нічыя рука не паднялася іх правіць.* Сабаленка. *Хлопцы развярнулі гармату, але Жаўтых скамандаваць «агонь» не наважыўся, ды і ў астатніх не падняліся рукі гармату зарадзіць для такой справы.* Быкаў. *Сям'я была вялікая, хлеб толькі давай. За зіму ўсе засекі падмятуць, а на тое, што ў зямельцы [схавана], рука не падымаецца.* Лобан. **РУКА ПАДЫМАЕЦЦА (ПАДНІМАЕЦЦА)** *у каго, чыя*; **РУКІ ПАДЫМАЮЦЦА (ПАДНІМАЮЦЦА)** *у каго, чые. Часцей у пытальных ск.* З супрацьлеглым знач. *Багата чаго давядзецца нам рабіць, на што рукі падымацца не будуць. Ды нідзе не дзенешся — загады Радзімы выконваць трэба.* Сачанка.

**Р`УКА Ў РУК`У.** *Акал. Функц. не зам.* **1**. Узяўшыся за рукі (ісці, гуляць, трымацца і пад.). **Сін**.: рука аб руку (у 1 знач.). *Як пачалі разыходзіцца, дык неяк здарылася, што Цімка з Арынаю ідуць побач, рука ў руку.* Каваль.

**2**. *<з кім>*. Разам, дружна, аднадушна, як аднадумцы (жыць, працаваць, дзейнічаць і пад.). **Сін**.: плячо к плячу (у 2 знач.); плячо ў плячо (у 2 знач.); рука аб руку (у 2 знач.). *Рука ў руку з магутнымі братамі мы ў бой ідзём і ў бедах не адны...* Колас. *Рука ў руку з польскімі патрыётамі вялі партызанскую барацьбу кашубскія паэты Ян Ромпскі і Юзаф Цайнова...* «ЛіМ».

**СВА`Я РУК`А** *ў каго дзе. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. мае

заступніка, які можа пасадзейнічаць, аказаць падтрымку. **Сін**.: валасатая рука (у 2 знач.). *Мы на суд, а там у пана свая рука.* Якімовіч. *У чыноўніка свая рука ў ваенкамаце.* Гурскі. *Сказаць хоць, што хочаш вучыцца... стажу набіраеш. А там было б відаць... Мо ў іх свая рука недзе, глядзіш, і памаглі б...* Ярашэвіч.

**Ц`ЯЖКАЯ РУК`А** *ў каго. Мн. не ўжыв. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. прыносіць няўдачу, няшчасце ў якой-н. справе, пачынанні і пад. **Ант**.: лёгкая рука *ў каго. — Я ж такі казаў вам, што ў Язэпа цяжкая рука, — весела крыкнуў Гілёрык, рады, што выйшла так, як ён казаў.* Колас. *Курган спрабавалі раскопваць, спрабавалі адкапаць князевы шаблі і срэбра. Але, мусіць, рука цяжкая была ў таго, хто браўся за гэтую справу.* Васілевіч. *Купіць, бывала, бацька парася, а яно неўзабаве закырхае, сагнецца ў дугу і, не марудзячы часу, ногі працягвае. Бацька ўсё думаў, што ў яго рука цяжкая, а маці была перакананая, што нам сам бог прыбытку не дае.* Пянкрат.

*РУКАВА* ● **ЯК З РУКАВ`А.** *Акал. Разм.* У вялікай колькасці і бесперастанку (сыпаць, сыпацца і пад.). **Сін**.: як з мяшка; як з рога дастатку; як з рэшата (у 2 знач.). — *Ого, ён табе і жартаўнік харошы, — цягнуў сваё Іван Пракопавіч. — Можа гаварыць з намі, работнікамі, паўдня і ўсё анекдотамі сыпле як з рукава.* Пестрак. *Набіў руку інспектар, набіў. Сыпле пытанні як з рукава.* «Полымя».

*РУКАВОМ* ● **ЗАКУСВАЦЬ РУКАВОМ.** Гл. закусваць.

*РУКАВЫ* ● **ЗАКАСВАЦЬ РУКАВЫ.** Гл. закасваць.

**ЗАКАСАЎШЫ РУКАВЫ.** Гл. закасаўшы.

**СПУСЦІЎШЫ РУКАВЫ.** Гл. спусціўшы.

*РУКАМ* ● **ДАВАЦЬ ВОЛЮ РУКАМ.** Гл. даваць.

*РУКАМІ* ● **АБ`ЕДЗВЮМА РУК`АМІ.** *Акал. Разм.* **1**. *Часцей жарт.* З вялікай ахвотай, жаданнем, радасцю (падтрымліваць каго-н.). *[Праменны:] Будзе і ў мяне жонка... Цудоўная, чулая жанчына... Падтрымліваеш? [Язва:] Абедзвюма рукамі.* Крапіва.

**2**. Вельмі моцна і з вялікай зацікаўленасцю (брацца, трымацца і пад.). *Усё тут на сярэднім узроўні, і таму не адразу здагадаешся, за што трэба ўзяцца абедзвюма рукамі, каб падняць калгас угару.* Шахавец. *[Броня:] Ён выдатны талент. [Марфа Пятроўна:] Дык і трымайся! Абедзвюма рукамі трымайся. Раз даў бог такі талент, дык не выпускай.* Крапіва.

**АДБІВАЦЦА РУКАМІ І НАГАМІ** *ад чаго.* Гл. адбівацца.

**АДМАХВАЦЦА РУКАМІ І НАГАМІ** *ад чаго.* Гл. адмахвацца.

**БРАЦЬ ГОЛЫМІ РУКАМІ.** Гл. браць.

**ГАЛАСАВАЦЬ АБЕДЗВЮМА РУКАМІ** *за каго, за што.* Гл.

галасаваць.

**Г`ОЛЫМІ РУК`АМІ.** *Акал. Разм.* Не маючы пры сабе ніякай зброі (не зробіш чаго-н., не абаронішся, не наваюеш і пад.). — *Ваяваць нам трэба будзе, — гаварыў Каленік далей, — а ваяваць голымі рукамі нельга.* Галавач. *[Машэка:] І ты не перашкодзіў? Ніхто яе не бараніў? [Багдан:] Не было як. Голымі рукамі нічога не зробіш.* В.Вольскі.

**ЗАГРАБАЦЬ ЖАР ЧУЖЫМІ РУКАМІ.** Гл. заграбаць.

**З Г`ОЛЫМІ (ПУСТ`ЫМІ) РУК`АМІ.** *Акал. Разм.* **1**. Нічога не маючы пры сабе; нічога не атрымаўшы, нічога не дабіўшыся (прыходзіць, вяртацца і пад.). **Сін**.: без штаноў; з носам; з такам; ля разбітага карыта; на бабах; ні з чым; нясолана хлябаўшы; перад разбітым карытам; пры пікавых інтарэсах. *[Марыся:] Што яго прасіць з голымі рукамі? Трэба было завезці які гасцінчык.* Дунін-Марцінкевіч. *Каб радня — хоць што прынёс бы. Прыходзіць заўсёды з голымі рукамі.* Баранавых. *Ты са мной гаворыш, як з ворагам, хаця ніколі ты не пайшоў ад мяне з пустымі рукамі.* Самуйлёнак. *Рыбак шкадаваў крыху, што надта забавіліся ў старасты, але хоць не дарма: адпачылі, абагрэліся, а галоўнае — вярталіся не з пустымі рукамі.* Быкаў.

**2.** Без усякай зброі (быць, ісці, кідацца і пад.). *Ну, як гэта можна дапусціць, каб гэтыя самыя «таварышы» з голымі рукамі абяззброілі канвой?* Колас. *Чалавек з вінтоўкай зусім не тое, што з голымі рукамі.* Навуменка. *[Кузьмін:] А з пустымі рукамі які ж я салдат?* Крапіва. «*Эх, Васіль! — крыўдна стала адразу. — Ведай цяпер, як з пустымі рукамі хадзіць...» А Носік стаяў з аўтаматам.* Брыль.

**З РАСПАСЦ`ЁРТЫМІ РУК`АМІ** <u>прымаць, сустракаць, чакаць.</u> *Акал. Разм.* Прыветна, гасцінна, з вялікім задавальненнем. **Сін**.: з абдымкамі. *Значыць, трэба звярнуць на поле і накапаць з паўмяшка бульбы. З такім дарункам яго [Клімчука] прымуць у атрадзе з распасцёртымі рукамі.* Гамолка. — *Значыць, «пасведчанне» наша дапамагло? — Не толькі дапамагло, больш. Сустракалі ўлады з распасцёртымі рукамі...* Лынькоў. — *Аж вушы пратрубіла: давай, давай перабірацца ў горад. — Мікалай сумна хмыкнуў, прыцмокнуў: — Як бы хто нас там чакае з распасцёртымі рукамі...* Вышынскі.

**З РУКАМІ АДАРВАЦЬ.** Гл. адарваць.

**З РУК`АМІ І НАГ`АМІ.** *Акал. Разм.* Ахвотна, з вялікім задавальненнем (браць, аддаць і пад.). **Сін**.: за мілую душу (у 1 знач.). *А можа, плюнуць і на гэтую Прыпяцкую кантору, і на ўсё тут і падацца ў якую Татарыю ці наогул у Сібір? Там з рукамі і*

*нагамі яго [Шкварніка] схопяць.* Гаўрылкін. *Як прачуюць украінцы, то дамок у Хавы з рукамі і нагамі схопяць, і за цану не пастаяць — хата ж гатовая, разбяры ды складзі толькі і засяляйся.* І.Капыловіч.

**І РУК`АМІ І ЗУБ`АМІ** *трымацца. Акал. Разм.* Вельмі моцна, учэпіста. **Сін**.: рукамі і нагамі *трымацца. — Не дзіўлюся я, — сказаў ён [Банэдык] задуменна, — што, скажам, нейкі ксёндз за старое трымаецца і рукамі і зубамі...* Чарнышэвіч. *Як ні старайся фон Галер выслужыцца, к пачатку лета яму ўсё ж давялося развітацца з губернатарскім крэслам. А сядзеў ён у гэтым крэсле, трэба сказаць, учэпіста. Трымаўся за яго і рукамі і зубамі.* Якімовіч.

**ПАДПІСВАЦЦА АБЕДЗВЮМА РУКАМІ** *пад чым.* Гл. падпісвацца.

**ПАД РУК`АМІ.** *Акал. Разм.* **1**. Каля сябе, так блізка, што можна лёгка дастаць, выкарыстаць. Пра канкрэтныя прадметы. **Сін**.: пад рукой (у 1 знач.). *Якраз яго [чарніла] не знайшлося пад рукамі, і гэта перашкодзіла ёй заняцца пісьмом.* Гартны. *Побач стаяла прыхінутая да сцяны вінтоўка — усё было пад рукамі, заставалася цярпліва чакаць, спадзеючыся на ўдачу.* Быкаў.

**2**. Вельмі блізка, недалёка, побач. **Сін**.: адзін крок *ад чаго да чаго*; за два крокі *ад каго, ад чаго*; за плячамі *каго, у каго* (у 2 знач.); не за гарамі (у 1 знач.); пад бокам (у 1 знач.); пад рукой (у 2 знач.); пад <самым> носам *у каго, чыім, каго*; перад вачамі <*чыімі*>; перад носам <*каго, чыім*>; рукой падаць *да чаго. А пацікуйцеся: тут блізка; зямля, бы ў мацеры калыска, на відавоку, пад рукамі...* Колас. *Сівец у вас пад рукамі. Чаму ж ён дагэтуль яшчэ не пайшоў у калгас?* Зарэцкі.

**РАЗВОДЗІЦЬ РУКАМІ.** Гл. разводзіць.

**РУК`АМІ І НАГ`АМІ.** *Акал. Разм.* Рашуча і неадступна (быць супраць чаго-н., уперціся і пад.). *Мы, здаецца, разумелі, чаму брыгадзір рукамі і нагамі супраць навічка. Вазьмі яго — і паляцяць прэміяльныя, не гаворачы пра высокае званне.* Кузьмянкоў. *На гэты раз [хлопчык] упёрся, як кажуць, рукамі і нагамі: не хачу ў інтэрнат, і ўсё.* Цяжкі.

**РУК`АМІ І НАГ`АМІ** *трымацца. Акал. Разм.* Вельмі моцна, учэпіста. **Сін**.: і рукамі і зубамі. — *Утаміўся я, — сказаў Башлыкоў шчыра. — Усе гэтыя ночы — сходы. І без поспеху, можна сказаць. Не паддаюцца мужыкі. Рукамі і нагамі за лапік трымаюцца.* Мележ. *Ды я за такія сістэмы, дарагі мой, рукамі і нагамі.* Гаўрылкін.

**СВА`ІМІ РУК`АМІ.** *Акал. Функц. не зам.* Непасрэдна сам, без

пасрэднікаў (рабіць, зрабіць што-н.). **Ант**.: чужымі рукамі. *У нас няма добрага будынка для школы, а дзе і ніякай няма школы... А ўсё гэта можна ўхіліць, сваімі рукамі пабудаваць новае, моцнае, прыгожае і патрэбнае нам.* Колас. *Вельмі ненавідзеў гэтага чалавека Міколка, гатоў быў сваімі рукамі задушыць яго...* Лынькоў. *[Ткачук:] Значыць, вайну вы па газетах ды па кіно ведаеце. Так? А я яе сваімі рукамі рабіў.* Быкаў.

**ТРЫМАЦЦА АБЕДЗВЮМА РУКАМІ** *за каго.* Гл. трымацца.

**ХАПАЦЦА АБЕДЗВЮМА РУКАМІ** *за што.* Гл. хапацца.

**ЧУЖ`ЫМІ РУК`АМІ.** *Акал. Функц. не зам.* Несамастойна, выкарыстоўваючы працу, энергію, сілы і пад. іншых (рабіць, зрабіць што-н.). **Ант**.: сваімі рукамі. *[Тварыцкі] з вялікім задавальненнем асвятляў бы гэтым святлом сваю нару. Але каб усё гэта было зроблена чужымі рукамі, так, як ён калісьці рабіў на Скуратовіча.* Чорны. *Вы тут нейкія рахункі з ім хочаце звесці... Чужымі рукамі...* Міська.

*РУКАЎ* ● **У РУК`АЎ** *смяяцца, хіхікаць* і пад. *Акал. Разм.* Ціха і непрыкметна. **Сін**.: у бараду; у вус; у кулак. *Прыстаў грозна зірнуў на ўрадніка. Ураднік апусціў вочы і зірнуў на стражніка, стражнік на соцкага. Соцкі стаяў бокам і смяяўся ў рукаў.* Колас. *Толькі адна студэнтка, Рая, хіхікала сабе ў рукаў.* Карпюк. *Зараз ужо некаторыя засмяяліся ў рукаў: ведалі — пачнецца цікавае.* Дайнека.

*РУКАХ* ● **ГАРЫЦЬ У РУКАХ** *чыіх, у каго.* Гл. гарыць.

**ДАВАЦЬ ПА РУКАХ** *каму.* Гл даваць.

**ЗВЯЗВАЦЬ ПА РУКАХ І НАГАХ** *каго.* Гл. звязваць.

**НА РУК`АХ** *чыіх, у каго. Функц. не зам.* **1**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. На ўтрыманні, пад апекай, доглядам (быць, знаходзіцца, заставацца). **Сін**.: за галавой *чыёй*; за плячамі *каго, у каго* (у 4 знач.); за спінай *чыёй* (у 3 знач.); на шыі *ў каго, чыёй* (у 1 знач.); пад крылом *у каго, чыім, каго. Дык што калі ў мяне на руках двое — майму чацвёрты год і яе, нябожчыцы — восьмы год.* Чорны. *Усё памяняна, прададзена. На руках толькі дзеці хворыя.* Барадулін. *На руках у жанчыны засталося двое: Клава і Хведар — гора яе і ўцеха, ужо не пуплы, але і не памочнікі.* Кудравец.

**2**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. У чыім-н. уладанні, падпарадкаванні (быць, знаходзіцца). **Сін**.: у руках *чыіх, каго, у каго* (у 2 знач.). *Для мяне жыццё было добрае: уся гаспадарка была на маіх руках і добра ручыла; пенсію браў добрую.* Ядвігін Ш. *Маці мякка, ласкава сказала: — Ты, сыночак, будзеш з дзедам, хату пасцеражэш. Ды глядзі добраньк[а] — усё дабро тут

*на вашых руках!..* Мележ.

**3**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. У чыім-н. карыстанні (быць, знаходзіцца). — *Кнігі больш на руках, — гаворыць Мікола, — яны, брат, у нас не застойваюцца.* Брыль.

**4**. *Акал.* У наяўнасці, непасрэдна ў каго-н. (заставацца, трымаць, мець і пад.). **Сін**.: у руках *чыіх, каго, у каго* (у 3 знач.). *[Жлукта:] Броні ж мне не далі, і ў мяне на руках астаўся вось гэты дакумент...* Крапіва. *У нас блізка пяць сотняў патронаў, і не варта ўсе іх трымаць на руках.* Самуйлёнак.

**5**. *Акал.* У прысутнасці каго-н. (памерці). *Верыць ён, што ад кулі, як мужны салдат, на руках у Сцяпана памёр яго брат.* Куляшоў. *Некалі, перад самай смерцю, ён [бацька] прыязджаў да іх у Зялёную Дуброву прасіць Ганьчыну маці дараваць яму ўсе яго грахі, усю яго віну перад ёю, дазволіць памерці ў яе на руках...* Васілевіч. — *Бацька твой, Арцём, памёр на мінулым тыдні, у пятніцу. — Што?! Памёр?! — У Кутаісі, у турме... На маіх руках памёр.* Самуйлёнак.

**НАСІЦЬ НА РУКАХ** *каго.* Гл. насіць.

**ПА РУК`АХ.** У *знач. вык. Разм.* Дамовіліся, згодны. *Хведар згодзен. За табой слова. Ну, дык па руках?* Асіпенка. *Во, глядзіце, поўная як вока [біклага]. Задарам аддаю. Некалькі кілаграмаў солі і — па руках.* Паўлаў. *Магу харыуса налавіць... Праўда, з гэтай рыбкай павалэндацца прыйдзецца — яна ў горных рэчках, на Іну трэба ехаць, там харыуса шмат.. Дык па руках?* Масарэнка.

**ПУСКАЦЬ ПА РУКАХ** *што.* Гл. пускаць.

**СІНІЦА Ў РУКАХ.** Гл. сініца.

**ТРЫМАЦЬ ЛЕЙЦЫ <У СВАІХ РУКАХ>.** Гл. трымаць.

**ТРЫМАЦЬ НЕРВЫ Ў РУКАХ.** Гл. трымаць.

**ТРЫМАЦЬ СЯБЕ Ў РУКАХ.** Гл. трымаць.

**У АДН`ЫХ РУК`АХ.** *Акал. Разм.* У чыім-н. адным падпарадкаванні. *Шматлікія цэхі і ўчасткі, што выраблялі на месцы будаўнічыя матэрыялы і канструкцыі, аб'ядноўваліся ў адно магутнае прадпрыемства; у адных руках канцэнтравалася механізацыя разам з дарожным будаўніцтвам.* Хадкевіч. *Саўмін рэспублікі прапанаваў усім дробным арганізацыям перадаць транспарт аўтаўпраўленням і камбінатам, сканцэнтраваць яго ў адных руках.* «Звязда».

**УДАРЫЦЬ ПА РУКАХ.** Гл. ударыць.

**У РУК`АХ** *чыіх, каго, у каго. Функц. не зам.* **1**. *Вык. ці акал. (пры спалучэнні з дзеясл. т р ы м а ц ь).* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У поўнай залежнасці (быць). **Сін**.: пад абцасам *чыім, каго, у каго*; пад ботам *чыім, каго, у каго* (у 1 знач.); пад каўпаком *каго, у*

*каго*; пад пятой *у каго, чыёй, каго, чаго* (у 1 знач.); у кіпцюрах *чыіх, каго,* у кулаку; у лапах *каго, чыіх. — Ты ведаеш, што ты ў мяне ў руках?.. — Я ў тваіх руках? — ускінула Ганна на лесніка чароўныя вочы.* Колас. *Здарэнне з Карзюком паскорыла Марысін допыт. Да гэтага часу не было патрэбы пытаць у Марысі: у Карзюковых руках быў Косцік.* Баранавых. *— А вы, грамадзянін Сядура, не маглі б падказаць, як злавіць гэтага злачынца? — А божачка мой! Аблаву зрабіце, то і ў руках будзе, калі не сышоў куды з гэтага боку, узяўшы гэтакія грошы.* Лобан. // *Акал. Пры ўсёй сваёй заможнасці бацька яго быў скупым і пастаянна трымаў Андрэя ў руках.* Машара. *Пайшлі да тваіх арлоў. Лепшы разлік табе даю. Толькі трымаць у руках трэба, а то на галаву сядуць.* Шамякін.

**2**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. У чыім-н. уладанні, падпарадкаванні (быць, знаходзіцца). **Сін**.: на руках (у 2 знач.). *Іх была мэта забраць грошы — яны забралі. Ім трэба было каб гэтыя грошы не былі ў нашых руках.* Чорны. *[Гарыдавец] думаў гледзячы ў палёў бязмеж: «Цяпер ізноў усё ў маіх руках, цяпер і ты Раіна, не ўцячэш».* Танк. *Лёс Гунава быў у руках палкоўніка.* Самуйлёнак. *Усё ў вашых руках, вы — наша ўлада, таварыш старшыня, і як вы скажаце, так і павінна быць.* Брыль.

**3**. *Акал.* У наяўнасці, непасрэдна ў каго-н. (мець, заставацца і пад.). **Сін**.: на руках *чыіх, у каго* (у 4 знач.). — У *гміне ведалі, хто мае ў руках талент, — гаварыла яна [Настася], калі Косця ўжо трымаўся за клямку, — дык майго і пазвалі.* Баранавых. *[Шугаеў:] Але калі Сухадольскі прыходзіў да мяне з фактамі ў руках... [Страмілін:] Сухадольскі гэта адно, а ты паслухай, што рабочыя гавораць.* Крапіва.

**ХАДЗІЦЬ ПА РУКАХ.** Гл. хадзіць.

*РУКІ* ● **АД РУК`І.** *Акал. Функц. не зам.* Ручным спосабам (пісаць, маляваць і пад.). *Нічога, пасля машыністка перадрукуе. Дзе ж ты бачыў, каб такую даведку даваць ад рукі пісаную?* Чорны. *Калі.. лістовак аказвалася мала, то мы перапісвалі іх ад рукі і распаўсюджвалі сярод ваеннапалонных.* Новікаў.

**АПУСКАЦЬ РУКІ.** Гл. апускаць.

**АТРЭПВАЦЬ РУКІ** *ад каго, ад чаго.* Гл. атрэпваць.

**БРАЦЬ ЛЕЙЦЫ Ў <СВАЕ> РУКІ.** Гл. браць.

**<БРАЦЬ> НОГІ Ў РУКІ І.** Гл. браць.

**БРАЦЬ <СВАЕ> ВОЧЫ Ў РУКІ.** Гл. браць.

**БРАЦЬ СЯБЕ Ў РУКІ.** Гл. браць.

**БРАЦЬ У <СВАЕ> РУКІ.** Гл. браць.

**ВЫКРУЧВАЦЬ РУКІ** *каму.* Гл. выкручваць.

**Г`ОЛЫЯ Р`УКІ** *ў каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. бяззбройны. — *Вас тут трое, а я — адзін; у вас вінтоўкі, а ў мяне голыя рукі... — сказаў Карага.* Колас. *Я выкладаю свой боезапас — тры «РГД», адна «лімонка» ў кішэні, тры ракеты. Усё ж не голыя рукі.* Быкаў.

**ГРЭЦЬ РУКІ** *на чым, каля чаго, аб што, дзе.* Гл. грэць.

**ДАВАЦЦА Ў РУКІ** *каму.* Гл. давацца.

**ДАВАЦЬ КОЗЫР У РУКІ** *каму.* Гл. даваць.

**ДАВАЦЬ ЛЕЙЦЫ Ў РУКІ** *каму.* Гл. даваць.

**Д`ОЎГІЯ Р`УКІ.** *Адз. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Схільнасць украсці, прысвоіць чужое. *Васіленка не лепшы за Гарошку. Дзе кепска ляжыць, урве. Некалі быў дырэктарам школы, але знялі, мабыць, за доўгія рукі.* Навуменка. *У млыне цяпер сядзеў Гарбаты Ясь — чалавек з разумнай галавой і доўгімі рукамі. Гендарсан захапляўся яго зладзейскім розумам і нават крыху пабойваўся: гэты павук мог ашукаць і самога аканома.* Чарнышэвіч.

**ЗАЛАТ`ЫЯ Р`УКІ** *ў каго. Адз. не ўжыв. У безас. ужыв. Функц. не зам. Адабр.* Хто-н. вельмі ўмелы і здольны ў сваёй справе чалавек. *Залатыя рукі былі ў Ягора. На любую работу.* Карамазаў. — *Залатыя ў цябе рукі, сынок! — ледзь не расцалаваў мяне Луцэвіч, параўноўваючы маю сякеру з той, якая ляжала ў экспазіцыі.* Карпюк. *Каса не косіць — каса брые і шчытнякі бярэ сухія, бо ў дзядзькі рукі залатыя.* Колас. — *Хлеб вельмі смачны, — сказаў.. [Павел Андрэевіч]. — У гаспадыні рукі, відаць, залатыя.* Галавач.

**ЗАЦЯЦЬ РУКІ** *за што, дзе.* Гл. зацяць.

**ЗАЧАПІЦЬ РУКІ** *за што.* Гл. зачапіць.

**ЗВЯЗВАЦЬ РУКІ.** Гл. звязваць.

**ЗВЯЗВАЦЬ САБЕ РУКІ** *каму.* Гл. звязваць.

**ЗГАРНУЦЬ РУКІ.** Гл. згарнуць.

**З Л`ЁГКАЙ РУК`І** *чыёй, каго. Акал. Разм.* Пасля чыйго-н. пачынання, прыкладу. *Мае землякі — цесляры, кавалі, адважныя партызаны. Дык гэта ж з іхняй лёгкай рукі гамоняць бары і звіняць крыніцы.* Барадулін. *З гадамі за мостам, з лёгкай Мітрафанавай рукі, вырас цэлы пасёлак.* Ракітны. *З лёгкай рукі Анішчыка да мяне пасыпалі заявы.* Мурашка.

**З РУК`І** *каму. Вык. ці ў безас. ужыв. Разм.* **1**. Зручна, адпавядае чыім-н. намерам. **Сін**.: пад руку *каму.* **Ант**.: не рука *каму. Капейка зайшоў да Міхася нешта хутка пасля сходу, на якім заснаваўся калгас. Зайшоў упершыню, і гэта было яму з рукі: можна было, вельмі падобна на праўду, здзіўляцца швагравым дастаткам і хваліць яго гаспадарлівасць.* Брыль. *Мне туды якраз з рукі, дзе*

*начуюць два ваўкі.* Вітка.

**2**. Падыходзіць каму-н., задавальняе каго-н. спрыяльнымі ўмовамі. **Сін**.: на руку *каму*; у руку (у 2 знач.). — *Хата твая, — кажа, — пры гасцінцы, разбойнікам з рукі якраз.* Крапіва. *Зборы што ні ноч у дзеда — пана Ёдкі батракі хочуць загадзя ўсё ведаць, што з рукі і не з рукі: дзе паставіць трэба варту.., дзе, калі і што рабіць.* Астрэйка.

**3**. Зусім прыстойна, варта, этычна (рабіць што-н.). *Кажушка [Сайка] не зняў, а толькі расшпіліў: у хаце было цёпла. Ды і распранацца яму было не з рукі: распранацца можна было толькі ў кампаніі роўных паміж сабой людзей.* Колас. *Мы ў баі іх білі, а палонных біць не з рукі... Няма такога правіла, каб палонных крыўдзіць...* Лынькоў.

**З РУК НА РУКІ.** Гл. рук.

**З РУК У РУКІ.** Гл. рук.

**ІДЗЕ Ў РУКІ** *каму, што.* Гл. ідзе.

**<І> КАРТЫ Ў РУКІ** *каму.* Гл. карты.

**І КНІГІ Ў РУКІ** *каму.* Гл. кнігі.

**І ЛЕЙЦЫ Ў РУКІ** *каму.* Гл. лейцы.

**КУДЫ ДЗЕЦЬ <СВАЕ> РУКІ.** Гл. дзець.

**ЛАМАЦЬ <САБЕ> РУКІ.** Гл. ламаць.

**МАЗОЛІЦЬ РУКІ.** Гл. мазоліць.

**НАБІТАСЦЬ РУКІ.** Гл. набітасць.

**НАКЛАДВАЦЬ НА СЯБЕ РУКІ.** Гл. накладваць.

**НАКЛАДВАЦЬ РУКІ** *на каго.* Гл. накладваць.

*Даць, здаць* і пад. **НА РУК̀І** *чые, каго, каму. Акал. Разм.* У асабістае распараджэнне, падпарадкаванне. *Пан Вальвацкі, выпісаў немца-спецыяліста і здаў на яго рукі ўсю гаспадарку, патрабуючы аднаго — як мага больш прыбытку.* Крапіва. *Спачатку ён [пан] крыху зацікавіўся жывёлай, якую любіў, завёў новую пароду кароў і купіў пародзістую кабыліцу. А потым усё здаў на рукі аканома.* Пестрак. *Каня я вам на рукі не дам. Паедзем разам, дзецюкі. Хадзем запрагаць.* Чарнышэвіч.

**НА ЎС̀Е Р̀УКІ** *майстар, мастак, спецыяліст, хват* і пад.; *дзяўчына, чалавек, моладзь* і пад. *У знач. прэдык. азн. Функц. не зам. Адабр.* Выключны, здольны на вельмі многае, здатны да ўсяго. **Сін**.: адным словам; без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); будзь-будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); кругом сто дваццаць; на славу (у 2 знач.); на ўсе сто (у 3 знач.); на яць (у 2 знач.); па крайняй

меры (у 2 знач.), пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога; першай гільдыі (у 1 знач.); першай рукі (у 1 знач.); першы клас; першы сорт; разлюлі-маліна (у 1 знач.); рэдкай рукі; слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.); як яечка. *Выявілася, што наша Ядзя, як мы яе ласкава называлі, на ўсе рукі майстар.* «Полымя». — *Яна што — хірург? — Майстар на ўсе рукі, — сказаў Малаковіч. — А наогул яна акушэрка.* Быкаў. *Сама дзеўка, кажуць, на ўсе рукі майстрыха. А дыванюў, кажуць, такіх наткала, што вочы разбягаюцца, на іх гледзячы...* Ялоўчык. *Абавязкі доктара ўзяў на сябе Янка. Быў ён мастак на ўсе рукі.* Лынькоў. *Шашура, сам ведаеш, спецыяліст на ўсе рукі. Патрэбны вельмі ў наш час спецыяліст.* Мележ. *Нарэшце прыбег хлопец: гэты на ўсе рукі хват — ложак падняць, акно зачыніць.* Лужанін. *І дзядзька майстар быў на штукі, і быў механік на ўсе рукі...* Колас. *Сам бацька быў высокі, ёмкі і працавень на ўсе рукі. За што ні возьмецца, дык зробіць.* Ермаловіч. *[Тамара] прыгожа спявала і нядрэнна танцавала, была яшчэ добрай выдумшчыцай, як кажуць, на ўсе рукі.* Броўка. *Мая Варка — дзяўчына... на ўсе рукі.* Дуброўскі. *Так, нам было не да навукі! А зараз моладзь — на ўсе рукі...* Барадулін. — *Прызнавайся, пісала калі вершы? — Ну што вы!.. Гэта вы дык на ўсе рукі.* Міська. *Ён жа ў мяне на ўсе рукі! У нас уся мэбля — з яго рук.* Васілевіч.

**НЕ АДТ`УЛЬ РАСТ`УЦЬ Р`УКІ** *чые, у каго. У безас. ужыв. Разм. Іран.* Хто-н. не мае якіх-н. здольнасцей, не можа зрабіць што-н. **Сін**.: аслаблі гайкі *ў каго* (у 2 знач.); жыдкі лыткі *ў каго*; кароткі завароткі *ў каго*; кішка тонкая *ў каго*; кароткі пяты *ў каго*; пораху не хапае *ў каго*; рукі кароткія *ў каго. Дзесьці на трэцім ці на чацвёртым курсе, прачытаўшы выразкі з газет, што прывёз Андрэй з чарговай практыкі, я ды іншыя таварышы, а таксама нашы выкладчыкі пераканаліся: журналіста з Андрэя не будзе. Не адтуль, як кажуць, растуць яго рукі* Сачанка.

**ПАПАДАЦЬ У РУКІ** *каго, чые, каму, да каго.* Гл. пападаць.

**ПАХАДЗІЛІ РУКІ** *чые, каго.* Гл. рука.

**ПАЦІРАЦЬ РУКІ.** Гл. паціраць.

**П`ЕРШАЙ РУК`І.** *Азн. Разм. Ужыв. пры наз. са знач. асобы.* **1.** *Адабр.* Найвышэйшай якасці, адметны (майстар, садоўнік і пад.). **Сін**.: адным словам[1]; без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); будзь-будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); кругом сто дваццаць; на славу (у 3 знач.); на ўсе рукі; на ўсе сто (у 3 знач.); на яць (у 2 знач.);

па крайняй меры (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога; першай гільдыі (у 1 знач.); першы клас; першы сорт; разлюлі-маліна (у 1 знач.); рэдкай рукі; слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.); як яечка. *Не разумееш ты мяне, дзед. Сумна мне без работы... Я, можна сказаць, першай рукі сапёр!* Лынькоў. *У яго тры сыны, масцеравыя першай рукі, ды яшчэ дачка замужам за галоўным інжынерам.* Васілёнак. *Імем вялікай сталіцы кішлак свой назвалі навек — увішныя бавайнаводы, садоўнікі першай рукі...* Лось.

**2**. *Неадабр.* Самы заўзяты, з крайнім праяўленнем якіх-н. якасцей (махляр, мярзотнік і пад.). **Сін**.: вышэйшай маркі; з вялікай дарогі; першай гільдыі (у 2 знач.). *А хто ж ведаў, што гэты Стась — мярзотнік першай рукі?* Савіцкі.

**ПЛЫВЕ Ў РУКІ** *што.* Гл. плыве.

**ПРАЗ (Ц`ЕРАЗ) ДЗЕС`ЯТЫЯ (ТР`ЭЦІЯ) Р`УКІ** *даходзіць (дайсці), даставаць (дастаць)* і пад. *Акал. Разм.* З дапамогай або пры пасрэдніцтве каго-н. *Праз дзесятыя рукі на другі ці трэці год блукання да яго [Юрыя] дайшлі чуткі, што бацька прыязджаў у сяло, забраў мачыху да сябе ў Маскву.* Навуменка. *Сказаць яму ці не?.. Мо не ведае яшчэ. Лепш я скажу, чым праз дзесятыя рукі пройдзе...* Міська. *Дробышу знаёмы аўтамеханік недзе праз трэція рукі дастаў і памог узгрувасціць нейкі дзівосны корпус накшталт «лятаючай талеркі»...* Васілевіч.

**ПРАПАНОВА РУКІ І СЭРЦА.** Гл. прапанова.

**ПРАСІЦЬ РУКІ** *чыёй, каго, у каго.* Гл. прасіць.

**ПРАХОДЗІЦЬ ПРАЗ РУКІ** *чые, каго.* Гл. праходзіць.

**ПРОСІЦЦА У РУКІ** *што.* Гл. просіцца.

**ПРЫКЛАСЦІ РУКІ** *да чаго, дзе.* Гл. прыкласці.

**ПЭЦКАЦЬ РУКІ** *аб каго, аб што.* Гл. пэцкаць.

**РАЗВЯЗВАЦЬ РУКІ** *каму.* Гл. развязваць.

**РАЗВЯЗВАЦЬ САБЕ РУКІ.** Гл. развязваць.

**РАСПУСКАЦЬ РУКІ.** Гл. распускаць.

**Р`УКІ АПУСК`АЮЦЦА (АПУСК`АЛІСЯ, АПУСЦ`ІЛІСЯ)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* У каго-н. прападае ўсякае жаданне, ахвота дзейнічаць, рабіць што-н. — *Божухна, што гэта за дзіця! Проста апускаюцца рукі, ахвота прападае біць, — скардзяцца тыя людзі, каму Міхась шкоду зробіць.* Цётка. *Тады б, здаецца, спагнаў сваю злосць, адпомсціў бы [пану] за ўсе здзекі і ўніжэнні. Але ўспамінаў Васіль, што ў яго ёсць жонка, ёсць маленькія дзеткі, і рукі самі апускаліся, і стаяў ён акамянелы, маўчаў — ні слова.* Колас. *Хутка [хлопцы] згатавалі сабе абед і зараз жа ўзяліся за змяіную скуру.*

*Але зараз жа і апусціліся рукі... Ну, як было парэзаць яе, ды яшчэ на тонкія пасачкі, без нажа?* Маўр.

**Р`УКІ Д`ОЎГІЯ** *ў каго. Адз. не ўжыв. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* **1**. Хто-н. мае схільнасць да крадзяжу. *Дальбог, гэта ён украў, усе ж ведаюць, што ў яго рукі доўгія...* «Полымя».

**2**. Хто-н. любіць біцца, нападаць на каго-н. *Сяргей без намаганняў крутануў Сашку за плечы і штурхануў ад будана. [Сашка:] Не штурхайся, бо ніхто цябе не баіцца. Рукі, бач, доўгія. Глядзі, каб не падкарацілі.* Машара.

**3**. *Хто-н.* Хто-н. валодае вялікімі магчымасцямі ўсюды дастаць, пакараць, знішчыць каго-н.; ад каго-н. нідзе не схаваешся. Часцей ужыв. як пагроза. *Іван Адамавіч, цяпер вы разумееце, што вас чакае, калі дзе-небудзь каму-небудзь [раскажаце]... У нас рукі доўгія! Даю вам дзесяць год. Пасля можаце расказваць, што бачылі тут і чулі.* Кусянкоў. [*Птушынскі, амаль з пагрозай:*] *Перадам. Усё перадам... І не ўздумай мінулае варушыць, Равенскі! У нас рукі доўгія!* [*Равенскі:*]: *Вон! Вон адсюль!* «Маладосць». *А яму [бацьку] і праўда прыснілася нешта, бо падхапіўся на локці і, няцямна гледзячы перад сабой.., пагугнявіў штосьці недарэчнае: «Мафія... У мафіі рукі доўгія...».* «Полымя». *І чым больш ляжаў, тым больш халадзела пад сэрцам. Як паглядзіць на ўсё, што здарылася, Чжан? У яго ж доўгія рукі, шмат памагатых, шмат вачэй... А мо ўсё-такі ўдасца ўцячы?* Міська.

**Р`УКІ ЗВ`ЯЗАНЫ** *ў каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. пазбаўлены свабоды дзеянняў, магчымасці рабіць так, як хочацца. **Сін**.: галава звязана *ў каго, чыя*; свет завязаны *каму.* **Ант**.: рукі развязаны *ў каго, чые. Тады Стась пакляўся адпомсціць, і Кірэй нават не падазраваў, што праз гэтулькі год яны яшчэ раз сыдуцца на вузкай дарожцы і што ў яго, Кірэя, будуць звязаны рукі.* Дамашэвіч. — *А што словы? Хто хацеў — той паздаваў! — А як жа, паздаваў... у каго скрынкі былі ды рукі нічым не звязаны.* Кудравец. *У ліхаманкавым роздуме [Аксеня] пашкадавала, што звязаны рукі, каб не дзіця, яна б знайшла рады.* «ЛіМ».

**Р`УКІ КАР`ОТКІЯ** *ў каго. У безас. ужыв. Разм.* Няма права, магчымасці, сілы зрабіць, ажыццявіць што-н. **Сін**.: аслаблі гайкі *ў каго* (у 2 знач.); жыдкі лыткі *ў каго*; кароткі заваротки *ў каго*; кішка тонкая *ў каго*; кораткі пяты *ў каго*; пораху не хапае *ў каго. Упаўнаважаны гнеўна паківаў пальцам перад Васілёвым тварам: — Не, рукі кароткія! Савецкая ўлада не такіх уціхамірвала!* Мележ. *Вот бы цяпер чалавек дваццаць з аўтаматамі. З разгрому гэтага тылавога штаба можна было б і пачаць. Ды рукі кароткія.* Лобан. — *І дарэмна цябе не пасадзілі... — Цяпер ужо не пасадзіш, рукі*

*кароткія!* А.Жук.

**Р`УКІ НЕ АДВ`АЛЯЦЦА** *ў каго. У безас. ужыв. Разм. Іран.* Нічога не зробіцца, калі хто-н. дапаможа, зробіць што-н., выканае якую-н. работу. *[Валя:] Калі і сама памые пасуду, дык рукі не адваляцца.* Крапіва. *Дзякую, цёця Соня, што тут у мяне мыць? Пасцель я ў пральню здаю, а дробязь якую, дык рукі не адваляцца.* Гіль. — *Адпачні, сыне, ці ж Сяргей не пасячэ?.. — І ў мяне рукі не адваляцца.* І.Капыловіч.

**Р`УКІ НЕ ДАХ`ОДЗЯЦЬ (НЕ ДАХ`ОДЗІЛІ, НЕ ДАЙШЛ`І)** *да чаго, да каго. У безас. ужыв. Разм.* Няма часу, магчымасці заняцца чым-н., кім-н. *Дакладчык закрануў праблему «публіцыстыка і крытыка». Рукі ў крытыкі, сказаў ён, амаль не даходзяць да публіцыстычных жанраў.* «ЛіМ». *Не даходзяць рукі да свайго непаслухмянага дзіцяці і ў маці Валодзі.* «Настаўн. газ.» *За калгаснай працай — гэта было добра відаць — у Паўлюка не даходзілі рукі да свайго двара.* Каваленка. *Да мяне Міхась Кірылавіч два месяцы назад прыходзіў, я яму абяцаў... Ды, бачна, рукі не дайшлі.* Шамякін.

**РУКІ НЕ ПАДЫМАЮЦЦА** *ў каго, чые.* Гл. рука.

**РУКІ НЕ ПАДКЛАДЗЕШ** *пад каго.* Гл. падкладзеш.

**Р`УКІ <ПА Л`ОКЦІ> У КРЫВІ** *ў каго. У безас. ужыв. Разм. Пагард.* Хто-н. забіваў людзей, замешаны ў забойстве, пакаранні смерцю. *А ты ведаеш, хто там?.. Можа, там у каторага рукі па локці ў крыві? Можа, той жа Мастоўскі...* Кудравец. *Ён у мінскай СД справу аб падполлі вёў. Многіх сам катаваў і на смерць паслаў. У яго, гэта самае, рукі па локці ў крыві.* Карпаў. — *Можа, мне які зварот да іх напісаць? — прапанаваў Самсонаў. — Расказаць пра сябе, як і што было, як павярнулася, і заклікаць: апаматайцеся, у каго яшчэ рукі не ў крыві, пераходзьце на бок народа, выкупляйце сваю віну!* Місько.

**РУКІ ПРЭЧ** *ад каго, ад чаго.* Гл. прэч.

**Р`УКІ РАЗВ`ЯЗАНЫ (РАЗВЯЗ`АЛІСЯ)** *ў каго, чые. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. мае поўную свабоду дзеянняў. **Ант.**: галава звязана *ў каго*; *чыя*; рукі звязаны *ў каго, чые*; свет завязаны *каму. Ва ўсякім выпадку ў яго [Крамера], тады яшчэ маладога хлопца, у якога былі развязаны рукі, не ўзнікала жадання ўцякаць разам з імі [немцамі].* Навуменка. *Нарэшце яе рукі развязаны! Яна [Волька] верыла, што яе пакутам прыйшоў канец.* Ваданосаў. *Вось тады ў вас будуць рукі развязаны. Куды захочаце, туды і даскочыце.* Шашкоў. *У Андрэя нарэшце развязаліся рукі – цяпер без аглядкі на былога шэфа можна заводзіць свае парадкі: новая мятла мусіць і мясці па-*

*новаму.* Блакіт.

**Р`УКІ СВЯРБ`ЯЦЬ (СВЯРБ`ЕЛІ, ЗАСВЯРБ`ЕЛІ)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* **1**. Хто-н. вельмі хоча пабіцца, уступіць у бой з кім-н. **Сін**.: кулакі свярбяць *у каго*; кулакі сціскаюцца *ў каго, чые. — Раз войт, дык трэба і за парадкам дасачыць, — далучыўся да гутаркі Бруй, — а то ўжо на нашы галовы падымалася даўбешка — свярбелі рукі ў «таварышаў».* Колас. *Назаўтра пасля снедання ў Лейбы свярбелі рукі, хацелася правучыць Танеля, але пашанаваў свята...* Чарнышэвіч. *Вагнер перабраў моцна, сябе выставіў распуснікам, хоць ніколі ім не быў. І Анкуду абразіў. У Казіміра ажно рукі засвярбелі даць гаспадару па мордзе. Стрымаўся.* Шамякін.

**2**. Хто-н. вельмі хоча заняцца чым-н. *Сказаць па шчырасці, у мяне заўсёды рукі свярбяць па рулю. Люблю гэту справу — вадзіць вось такія махіны-дваццацітонкі.* «Звязда». *Можа, хочаш пакаштаваць? Вазьміся, у цябе ж свярбелі рукі да такіх спраў.* Лужанін. — *Не, тата, дайце мне сахор. — Ну, калі так у цябе засвярбелі рукі, то бяры мой. Я сабе з адрыны прынясу.* Чарнышэвіч.

**РЭДКАЙ РУКІ** <u>*майстар, спецыяліст*</u> і пад. *Азн. Разм. Адабр.* Найвышэйшай якасці, адметны. **Сін.**: адным словам[1]; без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); будзь-будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); кругом сто дваццаць; на славу (у 2 знач.); на ўсе рукі; на ўсе сто (у 3 знач.); на яць (у 2 знач.); па крайняй меры (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога; першай гільдыі (у 1 знач.); першай рукі (у 1 знач.); першы клас; першы сорт; разлюлі-маліна (у 1 знач.); слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.); як яечка. *Пад млын можна было пусціць які-небудзь з панскіх будынкаў ці зрабіць новы зруб... Рэдкай рукі майстры яго будавалі... Хай бы стаяў...* Трухан.

**СКЛАДВАЦЬ РУКІ.** Гл. складваць.

**СКЛАЎШЫ РУКІ.** Гл. склаўшы.

**СЦЯГ У РУКІ** *каму.* Гл. сцяг.

**СЯДЗЕЦЬ СКЛАЎШЫ РУКІ.** Гл. сядзець.

**СЯР`ЭДНЯЙ РУК`І.** *Азн. і вык. Разм.* Сярэдніх вартасцей, пасрэдны, які не вылучаецца па сваіх здольнасцях, становішчы і пад. **Сін**.: з сярэдзінкі на палавінку (у 1 знач.); не бог ведае які; ні богу свечка ні чорту качарга; ні два ні паўтара (у 1 знач.); ні рыба ні

мяса; ні сыры ні печаны; ні тое ні сёе (у 1 знач.); ні ў салдаты ні ў матросы; пасаліўшы можна есці; сюды-туды (у 3 знач.); сярэдзінка на палавінку; так сабе (у 3 знач.); чорт не чорт і два не выходзіць. *Пры тым пагроме загінуў бацька Багамольца, гандляр сярэдняй рукі.* Навуменка. *І калі не давядзецца сустрэцца тут увосень, вы ведайце: ёсць, жыве на зямлі Габінаў... Сярэдняй рукі ўрач.* Савіцкі. *Жыў ён [Стась] паміж Зыдорам і Гарабацэвічам. Хутарок яго — сярэдняй рукі.* Цяжкі.

**У АДН`Ы Р`УКІ.** *Дап. Разм.* Адной асобе (прадаваць, адпускаць, даваць і пад.). *[Іван Васільевіч:] Дробязь, здавалася б, але дырэктыўна не ўстаноўлена, колькі бутэлек можна адпусціць у адны рукі.* Петрашкевіч. *У адпаведнасці з нормамі ў адны рукі можна набыць толькі кілаграм цукру.* «Звязда». *Мінгандаль даў указанне ў адны рукі не прадаваць больш чым два боханы хлеба.* «ЛіМ». *Было дакладна вядома, якую гарэлку прывезлі туды і па колькі пляшак будуць даваць у адны рукі.* Філіповіч.

**УБІРАЦЬ У <СВАЕ> РУКІ.** Гл.убіраць.

**УМЫВАЦЬ РУКІ.** Гл. умываць.

**У Р`УКІ** *чые, каго. Акал. Разм.* **1**. *каму.* У поўную залежнасць, пад уладу каго-н. (аддаваць, аддацца і пад.). — *Адзіны спосаб выбавіць Панаса, — ціха, разважліва сказаў ён [дзед Талаш], — самому аддацца ў іх рукі.* Колас. *Думаеце, паверацць? Не, яшчэ за шпіёна нямецкага палічаць і ў рукі начальству аддадуць.* Галавач. *А можа, ніхто з тых, каму трэба, не даведаецца, што ён [Лукашык] аддаў сваю (страшна сказаць і падумаць!) былую жонку ў рукі гестапа?* Дамашэвіч.

**2**. У чыё-н. уладанне, падпарадкаванне (пераходзіць, захопліваць, браць і пад.). **Сін**.: пад руку *чыю. Пагроза непарадкаў, пане прафесар, будзе жыць датуль, пакуль панская зямля не пяройдзе ў рукі сялян.* Галавач. *[Лютынскі:] А мужыку што важней за ўсё? Зямлю ў свае рукі забраць.* Крапіва. *Настаў час, калі ўлада перайшла ў рукі народа.* Лобан.

**ЦАЛАВАЦЬ РУКІ І НОГІ** *каму.* Гл. цалаваць.

*РУКОЙ* ● **АДН`ОЙ РУК`ОЙ** <u>*валіць, паваліць*</u> і пад. *Акал. Разм. Іран.* Вельмі лёгка, без асаблівых намаганняў (валіць, перамагчы каго-н.). —*Такіх, як ты, мне трэба пяць на аднаго, — выхваляўся сусед. — Я магу цяб адной рукой вобземлю ляснуць.* Навуменка.

**З ПРАЦ`ЯГНУТАЙ (ПРАЦ`ЯГНЕНАЙ) РУК`ОЙ.** *Акал. Разм.* Жабруючы, выпрошваючы што-н. *Што гэта я, нібы жабрак які, хаджу ўсюды з працягнутай рукой. Як табе не сорамна, таварыш старшыня!* Шахавец. *Праз дзён некалькі пусцілі толькі аднаго*

*Няміру. Збіты, змучаны, ён зноў заняў сваё месца, з працягненаю рукою, ля касцёла.* Чорны. *Трэба адкрыта прызнаць: як хадзілі мы з працягнутай рукой да кіраўнікоў нашых базавых прадпрыемстваў, так і да гэтай пары ходзім.* «Настаўн. газ.»

**ІСЦІ РУКОЙ.** Гл. ісці.

**МАХНУЦЬ РУКОЙ** *на каго, на што.* Гл. махнуць.

**ПАД РУК`ОЙ.** *Разм.* **1**. *Акал.* Каля сябе, так блізка, што можна лёгка дастаць, выкарыстаць. Пра канкрэтныя прадметы. **Сін**.: пад рукамі (у 1 знач.). *Дуга была тут недалёка — ляжала тут жа пад рукою...* Колас. *Сілява вельмі смачная і ў юшцы. І мудрыць доўга не трэба, перамыў яе ды ў чугун, чым больш, тым будзе тлусцей ды смачней. Солі туды, пару бульбін, калі ёсць пад рукою, хаця з адну цыбуліну.* Брыль.

**2**. *Акал.* Вельмі блізка, недалёка, побач. **Сін**.: адзін крок *ад чаго да чаго*; за два крокі *ад каго, ад чаго*; за плячамі *каго, у каго* (у 2 знач.); не за гарамі (у 1 знач.); пад бокам (у 1 знач.); пад рукамі (у 2 знач.); пад <самым> носам *каго, чым, у каго*; перад вачамі <*чыімі*>; перад носам <*каго, чым*>; рукой падаць *да чаго. Куды ні пойдзе [стары], што ні возьмецца рабіць — калі Хвядос пад рукою — пакажа яму, да ўсякай драбніцы пры рабоце наложыць, як малога.* Калюга. *[У Янкі] пачынала кіпець усярэдзіне, і ён міжвольна ўсе свае няўдачы зварочваў на таго, хто быў пад рукою.* Дамашэвіч.

**3**. *чыёй, каго. Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пад чыёй-н. уладай (быць). *Уражанняў у апошнія дні ў Арсеня назапасілася столькі, што ён не мог прыйсці ў сябе, асэнсаваць у поўнай меры сваё становішча. Ведаў адно: ён на фронце, пад яго рукой за чатыры дзесяткі байцоў.* Хадкевіч.

**ПАЙСЦІ РУКОЙ.** Гл. пайсці.

**РУКОЙ ПАДАЦЬ** *да чаго.* Гл. падаць.

**ШЧ`ОДРАЙ РУК`ОЙ** *раздаваць, надзяляць, дапамагаць* і пад. *Акал. Функц. не зам.* Не шкадуючы. *К. Чорны шчодрай рукою, не важачы, рассыпаў у творах сінтаксічныя пабудовы і лексіку Случчыны.* Лужанін. *Дзеля таго каб ім ласкавы бог рукою шчодрай дапамог, яны паклоны шчыра білі.* Корбан. *Кіраўнік трэста ўраз забыўся на «авансы», якія раздаваў шчодрай рукой.* «Звязда».

**ЯК РУКОЙ ЗНЯЛО** *што.* Гл. зняло.

*РУКУ* ● **АДДАВАЦЬ РУКУ** *чыю, каго каму.* Гл. аддаваць.

**АДДАВАЦЬ РУКУ І СЭРЦА** *каму.* Гл. аддаваць.

**БРАЦЬ РУКУ** *каго, чыю.* Гл. браць.

**ЗАЛАЦІЦЬ РУКУ** *каму.* Гл. залаціць.

**ЗАПУСКАЦЬ РУКУ** *ў што, куды.* Гл. запускаць.

**ІГРАЦЬ НА РУКУ** *каму.* Гл. іграць.

**КУКУ Ў РУКУ.** Гл. куку.

**ЛАВІЦЬ РУКУ** *каго.* Гл. лавіць.

**ЛЁГКІ НА РУКУ.** Гл. лёгкі.

**НАБІВАЦЬ РУКУ** *на чым, у чым.* Гл. набіваць.

**НАКЛАДВАЦЬ РУКУ.** Гл. накладваць.

**НА РУК`У** *каму. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Падыходзіць каму-н., задавальняе каго-н., адпавядае чыйму-н. жаданню, інтарэсам. **Сін**.: з рукі *каму* (у 2 знач.); у руку *каму* (у 2 знач.). *[Сцёпку] нават і на руку было гэтае адзіноцтва, бо часамі ж трэба пабыць аднаму, зусім аднаму, каб не чуць і голасу людскога.* Колас. *Хлопец ён кемлівы. Маўчун трохі, а гэта нам і на руку, у балбатунах патрэбы не маем.* Паўлаў. *Надвор'е нам на руку было: віхурыла так, што белага свету не відаць. Дзе ўжо фашыстам след той узяць...* Даніленка.

**НА СВАЮ РУКУ**. *Акал. Разм.* Самастойна рашыўшы, па ўласнай ініцыятыве (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін.**: сваім адумам. *Адзін Барыс Васілеўскі не паслухаўся. Можа і добра зрабіў. Адкалоўся і пайшоў на сваю руку прабірацца цераз старую граніцу.* Калеснік. *Нельга такой адказнай справы весці на сваю руку.* «Полымя».

**НА СК`ОРУЮ РУК`У.** *Акал. Разм.* Паспешліва, наскора, не трацячы часу (рабіць, зрабіць што-н.). — *Падказаў нехта, што ён да цябе хадзіў у лес, — адказаў Максім, адзеўшыся на скорую руку.* Колас. *Атрымаўшы з пошты пакунак з кнігамі, на скорую руку пераглядзеўшы яго, я адразу пайшоў у кабінет да старшыні.* Дубоўка. *Разыходзіліся кучкамі ў розныя бакі на свае палосы, абмяркоўвалі на скорую руку толькі што пачутае.* Крапіва. *Дома Лукаш на скорую руку папалуднаваў і пачаў зноў апранацца.* Чарнышэвіч.

**НЯЧЫСТЫ НА РУКУ.** Гл. нячысты.

**ПАДАВАЦЬ РУКУ <ДАПАМОГІ>** *каму.* Гл. падаваць.

**ПАДВЯРНУЦЦА ПАД РУКУ** *каму.* Гл. падвярнуцца.

**ПАД ГАР`АЧУЮ РУК`У.** *Акал. Разм.* У стане ўсхваляванасці, раздражнення, запальчывасці і пад. (рабіць што-н.). **Сін**.: пад злосную руку. *Пад гарачую руку я паабяцаў — і вось мусіў стрымаць слова.* Вітка. — *Ідзі лепш, не крычы, не падлазь пад гарачую руку, — крутнуўся Корсак.* Адамчык. «*Ад начальніка ўсяго можна чакаць, — падумаў Андрэй. — Пад гарачую руку аддасць і пад суд і пад цуд...*» Пташнікаў.

*Пападаца (папасціся)* **ПАД ГАР`АЧУЮ РУК`У.** *Акал. Разм.* У

хвіліну злосці, раздражнення, у самы непрыдатны момант. *[Нікаля:] Вы не ўяўляеце, што сёння дзеецца на вуліцах! [Вальдэмар:] Пападзецца ім сёння пад гарачую руку хто ў буржуйскім палітоне ці ў футры — адразу на той свет адправяць!* Губарэвіч. *Каб не папасціся пад гарачую руку немцам, Міколка з дзедам рашылі перасядзець ў лесе ночы са тры, пакуль кінуць немцы пошукі ўцекачоў.* Лынькоў.

**ПАД ЗЛ`ОСНУЮ (ЗЛ`УЮ) РУК`У.** *Акал. Разм.* У стане злосці, раздражнення (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін**.: пад гарачую руку. *[Завінішнюк] падумаў, што Акцызнік яшчэ п'яны і пад злосную руку можа кінуцца на старшыню.* Пташнікаў. *Старшыня.. ледзь прыкметна варушыў вуснамі.. «Якраз пад злосную руку трапіў!», — насцярожыўся Кастусь, нясмела прысеў на.. крэсла і стаў чакаць.* Кананові́ч. — *Бацька ж сказаў, што не выйдзе з вас сапраўднага паляўнічага. — То ён сумысля, пад злую руку нагаварыў.* І.Капыловіч.

**ПАД П'`ЯНУЮ РУК`У.** *Акал. Разм.* У стане ап'янення (рабіць што-н.). **Сін**.: з п'яных вачэй; па п'янай лавачцы. *Хлопцы не разумелі: ці не прагаварыліся яны ўчора пад п'яную руку?* Арочка. *Ці чулі, што днямі ў Мярэжы чынілася. Пад п'яную руку брат на брата з нажом кінуўся!..* Адамчык.

**ПАД РУК`У** *каму. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач абстр. прадмета. Выгадна, адпавядае чыім-н. намерам, інтарэсам. **Сін**.: з рукі *каму* (у 1 знач.). **Ант**.: не рука *каму. Былі і такія, якім польская акупацыя была пад руку.* Колас. *Хай сабе ідуць, гэта мне пад руку – буду зноў засядаць у губернатарскай канцылярыі.* Купала.

**ПАД РУКУ** <u>*гаварыць, сказаць*</u>. *Акал. Разм. Неадабр.* Недарэчы, недарэчна. **Ант.**: да месца (у 2 знач.). *Я зразумела цану тым несправядлівым словам, але нейкі асадак ад іх у мяне застаўся. Вось што значыць слова, сказанае пад руку.* Арабей.

**ПАД РУКУ** *чыю. Акал. Разм.* У чыё-н. уладанне, пад чыю-н. уладу (трапіць, вярнуць і пад.). **Сін.:** у рукі *чые, каго* (у 2 знач.). *Даніла пастараецца прыслаць да іх у Навагародак дачку, каб яна паспрыяла вярнуць Навагародскую зямлю пад бацькаву руку.* Далідовіч. [*Параўн. ва ўкр. м.:* під руку *чию* – 'на чый-н. бок, пад чыё-н. кіраўніцтва'.]

**ПАД РУК`У (ПАД Р`УЧКУ)** <u>*ісці, гуляць, весці*</u> і пад. *Акал. Функц. не зам.* Апіраючыся на чыю-н. сагнутую ў локці руку ці прытрымліваючы каго-н. за локаць. *Кузаеў, Тужнікаў, сувязісты,*

*разведчыкі, інтэнданты, кухары глядзелі, як камсорг сярод белага дня прагульваецца пад руку з дзяўчынай... старшыной, што толькі што з'явілася немаведама адкуль.* Шамякін. *Толькі цяпер Апанас добра ўгледзеў, што Фёдар прыліп да яго Евы, як вусень да яблыка. Ішлі з могілак, яна з ім, вёў усю дарогу пад руку.* Марчук. — А *потым я неяк да сваёй сястры паехала, — расказвала далей сведка, — Вылажу з тралейбуса, а ён... з маладзіцаю пад ручку.* Арабей.

**ПАДЫМАЦЬ РУКУ.** Гл. падымаць.

**ПАКЛАЎШЫ РУКУ НА СЭРЦА.** Гл. паклаўшы.

**ПА Л`ЕВУЮ РУК`У (ПА Л`ЕВАЙ РУЦ`Э)**. *Акал. Разм.* Злева, з левага боку ад каго-, чаго-н. **Ант.**: па правую руку. *Па левую руку матухна каралева, сядзяць прыгожыя каралеўскія дочкі.* Вольскі. *Лясы па левую руку цягнуцца да самага Дняпра, правастароннія – да Прыпяці.* Навуменка. *Па левую руку на спадзістым беразе стаялі цёмныя кусты.* Алешка. *Па левай руцэ сцежачка… [Зоя] павольна ідзе сцежкаю да брамкі.* Мурашка. – *Гэта трэцяя хата па левай руцэ,* – *сказаў Ігнат лейтэнанту, спыняючы каня.* Кудравец.

**ПАПАДАЦЬ ПАД РУКУ** *каму.* Гл. пападаць.

**ПА ПР`АВУЮ РУК`У (ПА ПР`АВАЙ РУЦ`Э)**. *Акал. Разм.* Справа, з правага боку ад каго-, чаго-н. **Ант.**: па левую руку. *Па правую руку, вялікі кароль, сядзяць твае адважныя сыны.* В.Вольскі. *Па правую руку шуміць жыта, і спявае зялёны прастор палёў, і гудуць рэйкі, гудуць…* Каваль. *Па правую руку вывіхастым паскам сцелецца праз пасёлак рачулка.* Цяжкі. *Па правай руцэ цягнуўся ельнік уперамешку з маладымі хвоямі.* Колас. *Па левай руцэ жыве ў хаце сам гаспадар з сям'ёю, па правай – канцылярыя ўпраўлення калгаса.* Мурашка.

**ПРАПАНАВАЦЬ РУКУ І СЭРЦА** *каму.* Гл. прапанаваць.

**ПРЫКЛАДВАЦЬ РУКУ.** Гл. прыкладваць.

**РУКА АБ РУКУ.** Гл. рука.

**РУКА Ў РУКУ.** Гл. рука.

**ТРЫМАЦЬ РУКУ** *каго, чыю, чаго.* Гл. трымаць.

**У АДН`У РУК`У** *з кім. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Аднолькавых думак, поглядаў, у поўнай згодзе з кім-н. **Сін**.: адна рука <з *кім*>. *Не маю аб чым гаварыць з вамі, пане настаўнік, не задавальняе мяне ваша гутарка... У адну руку вы з бацюшкам, ну, а той вядома...* Чарот. *[Балуй:] Сказаў яму, што нельга так абыходзіцца з людзьмі. А ён на мяне: «Стой, прыціснем і табе хвост, калі ты з панамі ў адну руку!»* Чарняўская.

**У РУК`У.** *Разм.* **1**. *чыю, каму. Акал.* На карысць каго-н., так, як

каму-н. хочацца (гаварыць). — *На сваю ўдавіную долю злуе, а разам і на тых, хто не ў яе руку гаворыць, — растлумачыла Зося па-свойму.* Крапіва. *Кожны чалавек гэта любіць, каб яму ў руку гаварыць.* Лынькоў. *Стась Бухча.. трымаўся з хлопцамі добра, гаварыў усім у руку, аж усе дзівіцца пачалі.* Чорны.

**2**. *каму. Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Падыходзіць каму-н., задавальняе каго-н., адпавядае чыйму-н. жаданню, інтарэсам. **Сін**.: з рукі *каму* (у 2 знач.); на руку *каму. А ўсе абставіны, умовы якраз Данілу не ў руку.* Колас. *Адно яму [Вінцэнтаму] у руку было, што пост не талькі на скорам, але і на людскую весялосць пост быў.* Калюга.

<u>Сон</u> **У РУК`У.** *Часцей вык. Разм.* Аказаўся прарочым, спраўдзіўся. *Мне ўсё гэта прыснілася, Галіна Макараўна, і, як бачыш, сон у руку.* Машара. *—Я рэдка бачу сны і ніколі не зважаю на іх. —А я надаю значэнне, — сказала Геленка, — і веру ў так званы сон у руку. Бывае — прысніцца і ў той самы дзень, глядзіш, спраўдзіцца.* Хадкевіч.

**ЦЯГНУЦЬ РУКУ** *чыю, каго.* Гл. цягнуць.

**ЦЯЖКІ НА РУКУ.** Гл. цяжкі.

*РУЛЯ* ● **БЕЗ РУЛ`Я (СТЫРН`А) І <БЕЗ> В`ЕТРАЗЯЎ**. *Функц. не зам.* **1.** *Акал.* Без акрэсленага накірунку (жыць, рухацца і пад.). *Рэшткам разгубленых народнікаў і нарадавольцаў, а таксама радыкалам і ліберапам, якіх кідала ў розныя бакі «без руля і ветразяў», быў паказан новы шлях.* «Полымя». *З таго часу, як у школе выявілі ў сына здольнасці дэкламатара, а ў Ірачкі харэаграфічныя задаткі, дык ты, напэўна, не паверыш, я зусім страціў руль кіравання. Разумееш? Сямейны карабель паплыў, як кажуць, без руля і без ветразяў.* Чавускі.

**2.** *Азн.* Без яснай, дакладнай жыццёвай мэты. *А бэсэсэраўская рускамоўная «Звезда» таго часу пераконвала ў іншым: «…віленскія беларускія нацыяналісты, гэтыя балбатуны і пустамолы, гэтыя людзі без стырна і без ветразяў... пабрыдуць за панам Алексюком».* Пашкевіч. *Выходзіць, ужо колькі гадоў дзяржава існуе без ніякай канцэпцыі і без пэўных праграм? Плыве па волі стыхіі і Бог знае куды – без стырна і ветразяў?* Гілевіч.

*РУХАЕЦЦА* ● **А ЎСЁ Ж ТАКІ ЯНА РУХАЕЦЦА!**

*РУЧАІ* ● **У ТР`Ы РУЧА`І** <u>*пот цячэ.*</u> *Акал. Разм.* Вельмі моцна, шчодра. *[Кастусь:] Дзе ўжо там — як дзяржаўны экзамен здаваў, так працаваць даводзілася, што... як кажуць, пот у тры ручаі.* Краўчанка.

*РУЧАЦЦА* ● **РУЧ`АЦЦА ГАЛАВ`ОЙ** *за каго, за што. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Браць на сябе поўную адказнасць за каго-, што-н.; быць гатовым паплаціцца жыццём. **Сін**.: адказваць галавой *за каго, за што*; галаву ў заклад аддаваць; даваць галаву на адрэз, класці галаву на калодку. *[Лявановіч:] Я гаварыў з Верай. Яна галавой ручаецца, што гэта паклёп.* Крапіва. *Я гатовы ручацца галавой, што праз гадзіну яны будуць тут.* Самуйлёнак.

*РУЧКІ* ● *Дабіваць (дабіць), даводзіць (давесці)* **ДА Р`УЧКІ.** *Акал. Разм.* Да бязвыхаднага, роспачнага становішча; да поўнай непрыгоднасці. **Сін**.: да абуха. *А тое ў нас, Андрэй, што калгас прапіваюць. Сарачыха калгас да ручкі дабівае.* Лобан. *Тэхніка ж догляду патрабуе, разумнай эксплуатацыі, а ў нас каторы за год новы трактар да ручкі даб'е...* Гіль. *Вы б расказалі, цудоўнейшы Вейс, як вы давялі, як гэта гавораць рускія, да ручкі дэпо.* Лынькоў. *Чыгуначная гаспадарка сапраўды за гады вайны даведзена была да ручкі: не хапала паравозаў і яшчэ больш вагонаў.* С.Александровіч.

*Даходзіць (дайсці), дабівацца (дабіцца)* **ДА Р`УЧКІ.** *Акал. Разм.* Да мяжы, да крайняй ступені ва ўчынках, у паводзінах, немачы, слабасці і інш. *Бабрук, таварышы, дастукаўся, дайшоў да ручкі. Яго трэба выцесніць з нашай грамады.* Брыль. *[Семяніхін:] Сорам сказаць, механік першага класа штаны прадаў, да ручкі дайшоў. І вось прыйшоў да вас, пан Гамэр. Дапамажыце чалавеку.* Маўзон. *[Жыгліцкая:] Я і сама ўжо не работніца, да ручкі дабілася, можна сказаць...* Козел.

*РУЧКУ* ● **ПАД РУЧКУ** *ісці і* пад. Гл. руку.

*РЫБА* ● **БІЦЦА ЯК РЫБА АБ ЛЁД.** Гл. біцца.

**НІ Р`ЫБА НІ М`ЯСА.** *Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пасрэдны чалавек, які нічым не вызначаецца. **Сін**.: з сярэдзінкі на палавінку (у 1 знач.); не бог ведае які; ні богу свечка ні чорту качарга; ні два ні паўтара (у 1 знач.); ні сыры ні печаны; ні тое ні сёе (у 1 знач.); ні ў салаты ні ў матросы; пасаліўшы можна есці; сюды-туды (у 3 знач.); сярэдзінка на палавінку; сярэдняй рукі; так сабе (у 3 знач.); чорт не чорт і два не выходзіць. *[Данута:] А кахаю каго ці не кахаю — якая вам да таго справа? Адчытвацца не стану. Вось калі буду жонкай, тады... Ды ці варта? Ні рыба вы ні мяса, як кажа Ганууся.* Э.Валасевіч. *[Саладуха:] Я табе кажу як другу: наперад не пніся і не будзь апошнім. [Высоцкі:] Быць ні рыбай ні мясам? Не такая ў мяне натура.* Гурскі.

**ЯК Р`ЫБА Ў ВАДЗ`Е.** *Разм.* **1.** *Акал.* Вельмі свабодна, натуральна і проста (адчуваць сябе). **Сін**.: як дома. *Палітрук адразу стаў яго непасрэдным начальнікам, і ў сваёй часці Міхась адчуваў сябе як*

*рыба ў вадзе.* Машара. *Юра і раней заўважаў: былы фармоўшчык ужо адчуваў сябе як рыба ў вадзе.* Карпаў. *Сярод сваіх землякоў Мікола адчуваў сябе як рыба ў вадзе.* Жычка.

**2.** *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Досыць свабодны, упэўнены, натуральны. *За тэхнічны бок я зусім спакойны. З ім у нас бліскуча справы ідуць; тут я як рыба ў вадзе!* Шынклер. *«Усходнікі!» Яны не ведаюць заходняй дэмакратыі і не маюць вопыту ў гэтай гульні. А ён, Абрамчык, у такіх абставінах як рыба ў вадзе.* Прокша. *Адчувалася, што для яе гэта было натуральнае асяроддзе: яна была ў такой кампаніі як рыба ў вадзе.* Гальпяровіч.

<u>*Маўчаць*</u> **ЯК (ШТО) Р`ЫБА.** *Акал. Разм.* Зацята. **Сін**.: як вады ў рот набраўшы; як магіла; як сцяна. *Нарэшце ёй, відаць, абрыдла капаць поруч з ім, бо хлопец маўчаў як рыба, і Люська перабралася ў другое месца.* Навуменка. *Думаеш, маці твая прызналася каму, хто ён? Упартая была, маўчала як рыба...* Рыбак. – *Каму ты прагаварыўся, ляснік?– Што рыба маўчаў, таварыш начальнік.* Шамякін.

*РЫБЕ* ● **ЯК РЫБЕ ПАРАСОН.** Гл. парасон.

*РЫБКІ* ● **ЛОЎЛЯ РЫБКІ Ў МУТНАЙ ВАДЗЕ.** Гл. лоўля.

*РЫБІНЫМ* ● **НА РЫБІНЫМ ФУТРЫ.** Гл. футры.

*РЫБУ* ● **ВУДЗІЦЬ РЫБУ.** Гл. вудзіць.

**ЗА ГНІЛ`УЮ Р`ЫБУ.** *Акал. Праст.* Зусім дарэмна, без усякай прычыны (прапасці, прадаць і інш.). **Сін**.: вечным правам; ні за грош; ні за капейку; ні за панюх табакі; ні за што ні пра што; як рудая мыш. *Балазе кандуктар не змікіціў, што з намі рабіць, а то прапалі б за гнілую рыбу.* Адамчык. *Аднойчы ў адчаі [пані] ахвяравала нават залатую пяцёрку, але і гэта не памагло. Лічы, што выкінула за гнілую рыбу.* Дайліда. *[Вайнацкі] і цябе, і мяне каго хочаш прадасць за гнілую рыбу. Ён не паглядзіць, што ты сястра...* Пестрак.

**ЗНОЎ ЗА РЫБУ ГРОШЫ.** Гл. грошы.

**ЛАВІЦЬ РЫБУ.** Гл. лавіць.

**ЛАВІЦЬ РЫБУ Ў КАЛАМУТНАЙ ВАДЗЕ.** Гл. лавіць.

*РЫБЫ* ● **НАЛАВІЦЬ РЫБЫ.** Гл. налавіць.

*РЫЗЗЁМ* ● **ТРЭСЦІ РЫЗЗЁМ.** Гл. трэсці.

*РЫЗІНУ* ● **ЦЯГНУЦЬ РЫЗІНУ.** Гл. цягнуць.

*РЫЗЫКУ* ● **НА СВОЙ СТРАХ І РЫЗЫКУ.** Гл. страх.

*РЫЛА* ● **АДВАРОЧВАЦЬ РЫЛА** *<ад каго, ад чаго>*. Гл. адварочваць.

**ВЯРНУЦЬ РЫЛА** *<ад каго, ад чаго>*. Гл. вярнуць.

**НА Р`ЫЛА.** *Дап. Праст.* Кожнаму, на кожнага. **Сін**.: на брата; на нос. *[Караўкін:] Думаюць, што неўміручасць тут ужо ў пакецiках*

*раздаюць. Па паўкіло на рыла.* Крапіва. *І мы ўжо складалі планы.., як выкарыстаць той ключык: па бохану хлеба на рыла — гэта адразу ж.* Казько.

**НІ ВУХА НІ РЫЛА.** Гл. вуха.

*РЫЛАМ* ● **РЫЛАМ НЕ ВЫЙШАЎ.** Гл. выйшаў.

*РЫЛЬЦА* ● **Р`ЫЛЬЦА Ў ПУШК`У** *ў каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. замешаны ў якой-н. несумленнай справе. *[Падрадчык:] Ён — грабарскі стараста, а ў яго ў самога рыльца ў пушку... сам добры зачыншчык...* Гарэцкі. *Якім таксама адчуваў сябе ў гэтай сітуацыі вельмі прыкра... Мала таго, што аслабіў дысцыпліну, дык і ў самога рыльца ў пушку.* Машара. *Водзіш з ёю хеўру — вадзі, а мяне не ўмешвай. А то атрымліваецца, што і ў мяне рыльца ў пушку.* Місько.

*РЫМСКАГА* ● **СВЯЦЕЙШЫ ЗА ПАПУ РЫМСКАГА.** Гл. святейшы.

*РЫПАМ* ● **З Р`ЫПАМ І СКР`ЫПАМ (З СКР`ЫПАМ-Р`ЫПАМ)**. *Акал. Разм. Часцей ужыв. пры дзесл.-вык. незак. тр.* З вялікай цяжкасцю, вельмі марудна (рабіць што-н., робіцца што-н.). **Сін.**: з горам папалам; з грахом папалам (у 2 знач.); са скрыпам. *Патрэбна было шмат беларускіх настаўнікаў, службоўцаў, работнікаў нізавога звяна, каб запусціць у ход дзяржаўную машыну на новай тэрыторыі. Усё ішло з рыпам і скрыпам, аднак ішло ў патрэбным кірунку.* Дамашэвіч. *Аповесць прайшла [у рэдакцыі часопіса] даволі гладка. А вось «Пушчанская адысея» А.Карпюка ішла з скрыпам-рыпам.* «Крыніца».

*РЫСА* ● **Р`ЫСА ПАДВ`ОДЗІЦЦА (ПАДВ`ЕДЗЕНА)** *пад чым. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Падсумоўваецца што-н. **Сін**.: бабкі падбіваюцца. *Не так доўга ўжо да Новага года... Мусіць, што падводзіцца рыса пад зробленым, і пачынаецца не толькі новы год, але і новы чалавек?* Кажадуб. *Артыкулам Максіма Гарэцкага.. як бы падводзілася рыса пад яго творчай і ідэалагічнай пазіцыяй другога перыяду дзейнасці.* Мушынскі. *Пад Навасёлкамі падведзена рыса: вуліцы і скверы завенчаны пасадкай дэкаратыўных саджанцаў.* Гроднеў.

*РЫСАХ* ● **У АГ`УЛЬНЫХ Р`ЫСАХ.** *Акал. Функц. не зам.* Збольшага, без падрабязнасцей (расказваць, даведвацца і пад.). **Сін**.: у асноўным (у 2 знач.); у прынцыпе; у цэлым (у 2 знач.). *Як гэта ні дзіўна, пра сваё мінулае ён [Агееў] амаль не расказваў нікому — хіба што так, збольшага, у агульных рысах.* Быкаў. *Чытач заражаецца хваляваннем аўтара — ці змогуць зліцца гэтыя асобныя ручаіны і плыні ў магутным рэчышчы, каб змясці ненавісны царызм і прыгонніцтва. У агульных рысах на гэта пытанне адказала*

*гісторыя.* Кісялёў. — *Мне цётка Хрысціна расказала пра вас, — пачаў Барадаты. — У агульных рысах.* Новікаў.

*РЫСУ* ● **ПАДВОДЗІЦЬ РЫСУ.** Гл. падводзіць.

*РЫХТЫК* ● **Р`ЫХТЫК У Р`ЫХТЫК** padобны. *Акал. Разм.* Вельмі моцна, абсалютна. **Сін.**: кропка ў кропку (у 2 знач.); як дзве кроплі вады. *Адразу ж з-за яе плячэй выйшлі два сыны, абодва трактарысты і падобныя, як кажуць, рыхтык у рыхтык адзін да аднаго.* Казько.

*РЫЦАР* ● **Р`ЫЦАР БЕЗ СТР`АХУ І ДАК`ОРУ (ПАПР`ОКУ).** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Кніжн. Адабр.* Смелы, велікадушны чалавек. *Дастойны, скажу вам, быў служка... Такімі людзьмі род багацее. Але... прапаў, як рыцар без страху і дакору.* Быкаў. *Толькі трэба адзначыць, што твае прыхільнікі — рыцары без страху і папроку, яны не баяцца нічога.* «Вожык».

**Р`ЫЦАР ЖУРБ`ОТНАГА В`ОБРАЗА.** *Часцей ужыв. ў адз. У ролі розных чл. ск. Кніжн. Іран.* Наіўны, бясплённы летуценнік. — *Чытаеце думкі на адлегласці? — засмяялася дзяўчына. — Тады прачытайце!.. — Тады... вам... адзін рыцар журботнага вобраза прапанаваў руку і сэрца...* Блакіт.

**Р`ЫЦАР НА Ч`АС.** *Часцей ужыв. ў адз. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Слабавольны чалавек, няздольны да працяглай барацьбы дзеля высакародных мэт, самаахвярнасці якога хапае не надоўга. *Яго вялікасць Час уручыў перамогу не Юзафу Пілсудскаму, які рыцарам на час гарцаваў на белым кані і над Прыпяццю ў старажытным беларускім Тураве, і над Дняпром-Славуцічам.* Лойка. *Я пачаў патрабаваць сабе тое, што, па сутнасці, мне не належала. Вось і атрымаўся з мяне рыцар на час, герой міжволі, які вельмі хутка пацярпеў крах.* Кобец-Філімонава.

**Р`ЫЦАР Н`ОЧЫ.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Носьбіт рэакцыйнай ідэалогіі; цемрашал. *А мо і праўда, што ў розных замчышчах крыштальных ваююць паміж сабой рыцары дня з рыцарамі ночы?* Бядуля. *Апошнія здзірае з плеч старых кашулі распасвены, вясёлы рыцар цёмнай ночы.* Купала. *На нас узнімаюцца рыцары ночы, іх сочаць у цьме нашы зоркія вочы.* Крапіва. *Рыцары ночы са скуры вылузваліся, каб нацягнуць на сябе скуру авечак.* Сіманоўкі.

**Р`ЫЦАР ПЛАШЧ`А І КІНЖ`АЛА.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Кніжн. Неадабр.* Майстар тайных тэрарыстычных аперацый. *Сакратар выплеснуў свае ваяўнічыя намеры на ўзроўні рыцара плашча і кінжала ў інтэрв'ю Кліўлендскай тэлекампаніі* «Звязда». *На сумленні рыцараў плашча і кінжала з Лэнглі не адна такая «мокрая справа». Прыгадаем лёс лідэра кангалезскага народа*

*Патрыса Лумумбы.* «Полымя».

*РЫЦЬ* ● **Р`ЫЦЬ Н`ОСАМ** *што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Падаць ніцма куды-н. (ад удару, спатыкнуўшыся і пад.). **Сін**.: заарацъ носам *што, у што*; зарыць носам *у што*; з капылоў <далоў> (у 1 знач.); з капытоў <далоў>; з катушак далоў. *А Зеўс тым часам насцябаўся, што носам чуць зямлю не рыў.* «Тарас на Парнасе». *Пакаўзнуўшыся на сумёце, Лазіна падае, рые носам снег, раскінуўшы ўбакі рукі.* Гардзей. *Кабылка спудзілася карчоў вывернутых, як ляснула калёсамі аб слуп! Кола туды, кола сюды — і студэнт носам зямлю рые.* Кажадуб.

*РЭБРЫ* ● **ПАЛІЧЫЦЬ РЭБРЫ** *каму.* Гл. палічыць.

*РЭДЗЬКА* ● **ЯК Г`ОРКАЯ Р`ЭДЗЬКА.** *Акал. Разм.* Вельмі моцна, нязносна (надакучыць, абрыдзець і пад.). **Сін**.: горш горкай рэдзькі. *Рыдлёўку гэтую яго зноў перарабіць! Чацвёрты раз... Абрыдзеў ён мне як горкая рэдзька!..* Паслядовіч. *[Юра:] Надакучылі гэтыя светлыя гады як горкая рэдзька! Кожны дзень дрыжыкі прадавай, каб двойку не схапіць, потым пераводныя экзамены, пераэкзаменоўкі...* Васілеўскі. *Не бядуй, жонка, мы з табой яшчэ нажывёмся, надакучым адно аднаму як горкая рэдзька.* Левановіч.

*РЭДЗЬКІ* ● **ГОРШ ГОРКАЙ РЭДЗЬКІ.** Гл. горш.

*РЭДЗЬКУ* ● **РЭДЗЬКУ ДРАЦЬ** з *кім, між кім.* Гл. драць.

*РЭДКАЙ* ● **РЭДКАЙ РУКІ** *майстар* і інш. Гл. рукі.

*РЭДКАСЦЬ* ● **МУЗ`ЕЙНАЯ Р`ЭДКАСЦЬ.** *Адз. і мн. У ролі розных. чл. ск. Функц. не зам.* **1**. Што-н. устарэлае, якое выйшла з ужытку і не мае практычнага прымянення. *Гэта свайго роду музейная рэдкасць. У гэтым сурдуце я пазнаёміўся з табою, Аксаша.* Колас. *— Лёня, глянь, — весела закрычаў ён [Мікіта], — наша з табой зыбка. Можа, возьмем? Музейная рэдкасць!* Асіпенка. *Такая запіска — музейная рэдкасць, і яе варта зберагчы.* Левановіч.

**2**. *Неадабр.* Хто-н. незвычайны сваімі паводзінамі, поглядамі, учынкамі і пад. — *Нафталінаў з пакаёўкай давялі жонку ледзь не да вар'яцтва... Хаця хопіць аб іх... — А мне дык вельмі цікава, — прызнаўся Сяргей. — Нечага ўбачыў «музейную рэдкасць».* Гурскі.

**НА Р`ЭДКАСЦЬ** *які. Акал. Функц. не зам.* Выключна, у вышэйшай ступені. **Сін**.: на дзіва (у 1 знач.); як ніколі *які* (у 2 знач.). *Учора быў вельмі прыгожы захад. Стаіць на рэдкасць добрая пагода.* Колас. *Сцяпан быў на рэдкасць цярплівы і настойлівы чалавек.* Тычына. *І цяпер ужо можна сказаць, што гэтае гастрольнае лета для тэатра — на рэдкасць удалае.* «ЛіМ».

*РЭЕК* ● **СЫХОДЗІЦЬ З РЭЕК.** Гл. сыходзіць.

*РЭЖА* ● **Р`ЭЖА В`ОЧЫ** *<каму, чые, чым>. Незак. Цяп. і пр.; адз. і мн.*

*Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Рэзка выдзяляцца, выклікаючы да сябе адмоўныя адносіны. *Праз хвіліну, стоячы ў перадку, імчаўся Юзік Верамейчык з новенькаю пажарнаю машынаю, якая рэзала вочы яскравасцю чырвонай фарбы.* Крапіва. *Святло рэжа вочы.* Галавач. *Гэтыя шпалы мне два разы на тыдзень вочы рэжуць, калі я еду паўз іх...* Чорны. *Беднасць, якую Наталля Міхайлаўна прывыкла бачыць гэтыя тры гады, сёння неяк асабліва рэзала яе вочы.* Мележ.

**Р`ЭЖА В`УШЫ (В`УХА).** *Незак. Цяп. і пр.*; *адз. і мн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Непрыемна раздражняе слых. *[Аксён] звоніць самы апошні раз, а гук яго рэжа вушы.* Каваль. *Бачу я, што для эстэта рэжа вуха месца гэта.* Крапіва. *Уразіла слова «зёмныя», уразіла ненатуральнасцю. Вушы рэжа яно, бо штучнае, робленае.* «ЛіМ».

*РЭЗАНЫ* ● *Крычаць, верашчаць* і пад. **ЯК Р`ЭЗАНЫ (-АЯ, -АЕ, -ЫЯ).** Вельмі моцна, гучна, нястрымна. **Сін**.: благім матам; з усіх жыл (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 3 знач.); на поўную сілу (у 3 знач.); на поўныя грудзі (у 2 знач.); на ўвесь голас (у 1 знач.); на ўвесь свет (у 1 знач.); на ўсе грудзі (у 2 знач.); на ўсе застаўкі (у 1 знач.); на ўсё горла; на ўсю глотку; на ўсю іванаўскую (у 1 знач.); на ўсю моц (у 3 знач.); немым голасам; не сваім голасам; што ёсць духу (у 2 знач.); што ёсць сілы (у 3 знач.); <як> іерыхонская труба (у 2 знач.); як недарэзаны. *Сонька ж, жонка, проста загрызла яго [Яўхіма], дый дзеці як рэзаныя верашчалі, плакалі — есці хацелі.* Сачанка. *Карова.., круцячы галавою, неспадзявана страшна, як рэзаная зараўла.* Адамчык. *Толькі ён [бацька] узяўся за кран, я ў крык як рэзаны.* Гігевіч.

*РЭЗАЦЬ* ● **БЕЗ НАЖ`А Р`ЭЗАЦЬ** *каго. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Ставіць каго-н. у вельмі цяжкае становішча. **Сін**.: падводзіць пад абух *каго*; падстаўляць пад удар *каго*; ставіць пад абух *каго*. *[Стары знаёмы] у кабінеце быў харобры, крычаў, што рэжуць без нажа.* Панчанка. *От гэта наша бухгалтэрыя. Яна мяне без нажа рэжа.* Сабаленка. — *Таварыш інспектар! — ледзь не са слязамі на вачах гаварыў.. прараб Беразюк. — Мы ж і без гэтага гарым з планам, а вы яшчэ рэжаце нас без лажа!* Лазуркін. **БЕЗ НАЖА ЗАРЭЗАЦЬ** *каго. Зак.* — *Не, Уладзімір Васільевіч, і я, пэўна, не дам рады... —Без нажа зарэзаў! — у роспачы развёў рукамі начальнік.* «ЛіМ».

**Р`ЭЗАЦЬ ПА ЖЫВ`ОМУ.** *Незак. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Сілком разрываць сувязі, адносіны з кім-н. — *Выбірай — або я, або дачка! — Наста, — папрасіў Фёдар, — ты па жывому*

*рэжаш. Я ж бацька.* Мяжэвіч. *Ці не рэжам мы па жывому, «падганяючы» мужа ці жонку пад свае погляды, схільнасці, норавы? Ці не адмаўляем блізкаму чалавеку ў праве на ўласнае меркаванне, асабістыя інтарэсы?* «Маладосць».

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Прычыняць каму-н. душэўны боль. **Сін**.: вымотваць жылы (у 2 знач.); вымотваць кішкі *каму* (у 1 знач.); гнаіць душу *чыю, каму*; кроіць сэрца *каму, чыё*; разануць <нажом> па сэрцы *каго*; раздзіраць душу *каму, чыю*; рваць душу *чыю, каму*; рэзаць сэрца *каму*; сушыць сэрца *чыё, каму*; цягнуць душу *з каго*; цягнуць за душу *каго. «Як у вас далей будзе? — рэжуць па жывому, успамінаюцца Апанасавы словы. — Жыць як думаеце?»* Місько. *Грыпініны словы зачапілі яе [Надзю] за балючае, і гэта не першы раз рэзалі ёй па жывому.* Кудравец.

**РЭЗАЦЬ ПАД КОРАНЬ** *каго, што.* Гл. секчы.

**Р`ЭЗАЦЬ С`ЭРЦА** *каму. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна трывожыць, хваляваць, мучыць каго-н. **Сін**.: вымотваць жылы (у 2 знач.); вымотваць кішкі *каму* (у 1 знач.); гнаіць душу *чыю, каму*; кроіць сэрца *каму, чыё*; разануць <нажом> па сэрцы *каго*; раздзіраць душу *каму, чыю*; рваць душу *чыю, каму*; рэзаць па жывому (у 2 знач.); сушыць сэрца *чыё, каму*; цягнуць душу *з каго*; цягнуць за душу *каго. Амяльянка, міленькі, залаценькі! Адумайся ты!.. Не ганяйся ты за лёгкім хлебам і не рэж ты мне сэрца!* Колас. *— Не рэж сэрца, Барыс, — па-сяброўску, шчыра сказаў скульптар Нохім Няміжскі, — яно і так баліць...* Гурскі.

*РЭЙ* ● **ВЕСЦІ РЭЙ.** Гл. весці.

**ПАВЕСЦІ РЭЙ.** Гл. павесці.

*РЭЙКІ* ● **ПЕРАВОДЗІЦЬ НА РЭЙКІ** *чаго, якія.* Гл. пераводзіць.

**ПЕРАВОД НА РЭЙКІ** *чаго, якія.* Гл. перавод.

**СТАВІЦЬ НА РЭЙКІ** *якія, чаго што.* Гл. ставіць.

*РЭКІ* ● **МАЛ`ОЧНЫЯ Р`ЭКІ <З КІС`ЕЛЬНЫМІ БЕРАГ`АМІ>.** *Адз. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Прывольнае, забяспечанае жыццё. **Сін**.: залатыя горы. *— Мабыць, у вас малочныя рэкі з кісельнымі берагамі? — цікавімся ў сваю чаргу. — І ўсё ж, Аляксандр Аляксандравіч, адкрыйце сакрэт.* «Вожык». *Тады хоча ісці [лугінаўскі мужык] далёка — шукаць шырокіх гоняў, рэк з кісельнымі берагамі, марыць аб вольным жыцці...* Каваль. *З чаго ж пачынаць работу ў такіх умовах, як не з плана? Не абяцаць ніякіх малочных рэк, а сказаць проста і ясна: давайце працаваць... Толк будзе...* Навуменка.

*РЭПКУ* ● **ЗАПЕЦЬ РЭПКУ.** Гл. запець.

**ПЕЦЬ РЭПКУ.** Гл. пець.

**ХОЦЬ РЭПКУ СПЯВАЙ.** Гл. спявай.

*РЭПУ* ● **БУСЕЛ РЭПУ ПАСЕЯЎ** *у каго.* Гл. бусел.

**ХОЦЬ РЭПУ СЕЙ.** Гл сей.

**ЯК РЭПУ ГРЫЗЦІ.** Гл. грызці.

*РЭПЫ* ● **ПРАСЦЕЙ ПАРАНАЙ РЭПЫ.** Гл прасцей.

*РЭЧ* ● **ВЯД`ОМАЯ Р`ЭЧ (СПР`АВА).** *У знач. пабочн. сл. Разм.* Зразумела, несумненна. **Сін**.: само сабой <зразумела>. *А ў дарозе, вядомая рэч, зразу зусім не чутно цяжару, а прайдзі толькі далей, дык і фунт пудам здаецца!* Ядвігін Ш. *Вядомая рэч, што ўсё гэта [Карызна] пільна хаваў у сабе, унутры. Вядомая рэч, што гэтага звонку зусім не відаць было.* Зарэцкі. *Мне ж пра усё, што робіцца тут, знаць цікава, вядомая справа...* Куляшоў.

**ДЗ`ІЎНАЯ Р`ЭЧ (СПР`АВА).** *Мн. не ўжыв. У знач. пабочн. сл. Разм.* Неверагодна, незвычайна. *І — дзіўная рэч! — разам з гэтымі цяжкімі балючымі думкамі.. Марына Паўлаўна чула, як растае ў яе сэрцы ўсякая нянавісць да шчаслівае супраціўніцы.* Зарэцкі. *Ганька выпалала зелле, прыбрала магілу кветкамі і павесіла на пасівелы крыж свой вянок... І, дзіўная рэч, бацькава магіла як быццам памаладзела і заўсміхалася: ці то ад кветак, ці то ад спаткання з дачкою...* Васілевіч. *[Слупы] прыкметна вылучаліся на снежна-зеленаватым фоне маладых хвоек. Але, дзіўная справа, — за імі ўсё яшчэ нічога не было відаць.* Быкаў.

**Р`ЭЧ У САБ`Е**. *Часцей адз. Часцей у знач. вык. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Хтосьці загадкавы ці штосьці загадкавае, сапраўдная сутнасць каго- ці чаго-н. не раскрытая, не зразумелая. *Дзякуй табе, тата, што ты быў поруч са мною. Каб ты ведаў, як я шкадую, што не паспеў дасягнуць таго веку, калі мая і твая душы маглі б ператварыцца ў злучаныя між сабою ёмістасці: ты так і застаўся для мяне рэччу ў сабе.* Арлоў. *Падораныя [Я.Купалам] бацьку рускіх сімвалістаў Брусаву асобныя выданні дзвюх паэм былі ці не кантрольнымі работамі «вучаніка» на пранікненне ў сферы, недаступныя рэалістычным вобразам з іх пачуццёвымі ўспрыманнямі, на спасціжэнне «рэчаў у сабе», якія патрабуюць сімвалаў.* «Полымя». *Аб уласцівасцях і якасцях рэчы ў сабе мы можам адно гадаць.* «Дзеяслоў».

**У Ч`ЫМ Р`ЭЧ.** *У ролі пытальнага ці дадан. ск. Разм.* Што здарылася. **Сін**.: у чым справа. *Раптам струмень пешаходаў заціўшыў ходу, затоўкся на месцы, нарэшце збіўся ў натоўп. «У чым рэч?» — далучыў Рыгор свой голас да іншых.* Гартны. *[Левановіч:] Высветлім, у чым тут рэч. А рукапіс, калі вам не цяжка будзе,*

*прышліце мне заўтра ў суседні корпус, у шаснаццаты пакой.* Крапіва.

*РЭЧАЎ* ● **У ПАРАДКУ РЭЧАЎ.** Гл. парадку.

*РЭЧЫ* ● **ГЛЯДЗЕЦЬ НА РЭЧЫ** *як.* Гл. глядзець.

**НАЗЫВАЦЬ РЭЧЫ СВАІМІ ІМЁНАМІ.** Гл. называць.

*РЭЧЫШЧА* ● **УВАХОДЗІЦЬ У <СВАЁ> РЭЧЫШЧА.** Гл. уваходзіць.

*РЭШАТА* ● Памяць **ЯК Р`ЭШАТА.** *Вык. Разм.* Дрэнная, слабая. *От памяць у мяне стала — як рэшата. [Гэ]та ж што я хацеў у вас папытацца...* Палтаран. *– Дзеда, я табе пра гэта ўжо казаў. – Ат, Алежка, памяць мая як рэшата.* Леванові ч.

**ЯК (НІБ`Ы) З Р`ЭШАТА.** *Акал. Разм.* **1**. Вельмі моцным струменем, суцэльным патокам (ліць, ліцца, цячы). Аб праліўным дажджы. **Сін**.: як з вядра; як з луба. *Хто ж астаўся, таму згуба: калі ліне дождж як з луба, — сорак дзён так і начэй нібы з рэшата цячэ.* Крапіва. *[Моцкін:] І праўду кажуць: «Бог няроўна дзеліць». У Сярэдняй Азіі цэлае лета пячэ і пячэ, а тут — нібы з рэшата цячэ.* Макаёнак.

**2**. У вялікай колькасці і бесперастанку (сыпаць, сыпануць і пад.). **Сін**.: як з мяшка; як з рога дастатку; як з рукава. — *Чаго тут баяцца? Гэта ж не красці. — Ці красці, ці прасці, абы жыць у шчасці, — як з рэшата сыпануў сват.* Дамашэвіч.

*РЭШАТАМ* ● **НАСІЦЬ ВАДУ РЭШАТАМ.** Гл. насіць.

*РЭШАЦЕ* ● **ЦУД У РЭШАЦЕ.** Гл. цуд.

*РЭШТ* ● **У РЭШЦЕ РЭШТ.** Гл. рэшце.

*РЭШЦЕ* ● **У Р`ЭШЦЕ Р`ЭШТ.** *Разм.* **1**. *Акал.* У канчатковым выніку, пад канец, напаследак. **Сін**.: у канцы канцоў (у 1 знач.). *Людзі рушылі да Сіпака. Ён бачыў, што ў рэшце рэшт прыйшоў-такі яго немінучы канец.* Лынькоў. *Думалася, што трывогі — ад адзіноты, ад нервовай узбуджанасці — перабольшаны, верылася, што ўсё ў рэшце рэшт будзе добра, толькі добра.* Мележ.

**2**. У *знач. пабочн. сл.* Нарэшце. Ужыв. для падкрэслівання чаго-н. ці паказу, што мера цярпення, чакання і пад. скончылася. **Сін**.: у канцы канцоў (у 2 знач.). — *Якая, у рэшце рэшт, мне справа да ўсяго гэтага?! — ускіпеў Балуеў.* Гурскі. *[Тата трэці:] Мне, у рэшце рэшт, і напляваць, скажу. Калі не стане Анцік мой біёлагам — такой бяды.* Гілевіч.

## С

*САБАК* ● **БРАХАЦЬ НА САБАК.** Гл. брахаць.

**ВЕШАЦЬ САБАК** *на каго, каму.* Гл. вешаць.

**ГАНЯЦЬ САБАК** <*па чым*>. Гл. ганяць.

**ХОЦЬ САБАК ГАНЯЙ.** Гл. ганяй.

**ХОЦЬ <ТЫ> САБАК ВЕШАЙ** *на кім.* Гл. вешай.

**ЯК САБ\`АК НЯР\`ЭЗАНЫХ** *каго. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Вельмі многа. Пра людзей і адуш. прадметы. **Сін**.: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на воловай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.). *Паліцаяў, стараст, бургамістраў, якія ўцяклі са сваіх вотчын, у нашым пасёлку як сабак нярэзаных. Яны збегліся сюды, пад ахову нямецкіх дзотаў, пасля таго як лясныя сальсаветы сталі партызанскай зонай.* Навуменка. *Я чуў, што калісьці і ў нашай вёсцы быў пан. Я ведаў, што за мяжой іх і зараз як сабак нярэзаных.* Сяркоў. *Вылаяўся [Андрэй] і тут жа сумеўся, сцепануўся: «Ой, ды што ж гэта я, тут жа Вілкі, тут жа ваўкоў і папраўдзе як тых нярэзаных сабак».* І.Капыловіч.

*САБАКА* ● **ДЗ\`Е САБ\`АКА ЗАКАП\`АНЫ.** *Часцей у знач. дадан. ск. Разм.* У чым сутнасць справы, сапраўдная прычына чаго-н. *Было крыўдна, як гэта ён, майстра сваёй справы з вялікім, яшчэ даваенным стажам, не можа дабрацца, дзе тут, як кажуць, сабака закапаны.* Мік. Ткачоў. — *Ды ты, як бачу, не толькі закаханы ў Тарашкевіча, але і яго жонку, — засмяяўся Максім. — Вось дзе сабака закапаны.* Машара. *Неяк парыжская газета «Франс-суар» паспрабавала высветліць прычыну растучага беспрацоўя. Паспрабавала, як гаворыцца, дакапацца, дзе сабака*

*закапаны.* «Вожык».

**К`ОЖНЫ САБ`АКА.** *Мн. не ўжыв. Дзейн. Праст.* Усякі, любы. Пра чалавека. **Сін.**: і жук і жаба; кожны сустрэчны; пастухова ганна; першы-лепшы (у 1 знач.); першы сустрэчны; стрэчны **<і>** папярэчны (у 1 знач.). *[Голас старшыні:] Вось табе і на! Не пазнала! Ды мой голас тут ужо кожны сабака ведае.* Крапіва. *Я быў у Чыжэвічах, у маёнтку і ў сяле, то там ужо кожны сабака ведае, чаго нарабілася ў Малінаўцы.* Чарнышэвіч. *[Самавук:] Навошта ехаць у сталіцу? Запытай нават тут, у гарадскім пасёлку, пра акадэміка-самавука, кожны сабака пакажа. Гэта — я!* Махнач.

**НІ АДЗ`ІН САБ`АКА.** *Дзейн. Праст. Ужыв. ў адмоўн. ск.* Абсалютна ніхто. Пра людзей. **Сін.**: ніякі чорт; ніякія сілы. — *Важнае заданне — сказаў Пятро. — Тут пашпарты няправільна афармлены. Паправіш так, каб ні адзін сабака не прычапіўся. Спадзяюся, разумееш, як гэта важна?* Новікаў. *Не маю права затрымлівацца. Яшчэ трэба даць добры крук, каб ні адзін сабака не пранюхаў, куды ездзіў.* Грахоўскі.

**САБ`АКА НА С`ЕНЕ.** *Адз. і мн. Часцей вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Такі, што сам не карыстаецца і іншым не дае карыстацца чым-н. — *Дазволь ноччу на чыгунцы супраць твайго хутара перапыніць патрулёў са страшаўскай вахі... — Не, Валя. Шукай сабе іншае месца!... — Саба-акі на сене!* Карпюк. *Варта было яму толькі ўзяць у рукі гэтую «загаворанную» шкатулку, як зараз жа, з гэтага моманту і наступіла расплата – немагчымасць сваім багаццем пакарыстацца... Сабака на сене...* Федарэнка. *Лопэ дэ Вэга – аўтар больш як дзвюх тысяч п'ес, раманаў, вершаў, у тым ліку і камедыі пра каханне – «Сабака на сене», якая кранае самыя патаемныя струны душы.* Мяснікоў.

**САБ`АКА НЕ ПЕРАСК`ОЧЫЦЬ (НЕ ПЕРАСК`ОЧЫЎ БЫ).** *Часцей азн. Разм. Жарт.-іран.* Вельмі вялікі паводле памераў, аб'ёмісты. *«Сядайце, — кажа ён [дзед], — панкі... То-бок, таварышы, закусім». Капусты місу нам на стол, — сабака б мо не пераскочыў, і верне пара аж пад столь і смачным пахам нюх ляскоча.* Крапіва. *За ноч такія гурбы намяло — сабака не пераскочыць!..* Шашкоў.

<u>*Дурны*</u> **ЯК САБ`АКА ДА Г`ОДУ**. *Акал. Праст. Іран.* Вельмі, надзвычай (дурны, неразумны). **Сін.:** як бот <з левай нагі>; як пень; як сала без хлеба. *Я стаў угаворваць Ларысу Пампееўну, каб засведчыла ягонае імя [забойцы] на паперы… Быў пачатак сямідзесятах – і жанчына сталінскіх часоў паглядзела на мяне, як пазіраюць на тых, пра каго кажуць: дурны, як сабака да году.*

Някляеў. [Даніловіч, с. 245: *як сабака да году.*]

**ЯК САБАКА З КОШКАЙ.** Гл. кот.

Любіць, кахаць **ЯК САБ`АКА П`АЛКУ.** *Акал. Разм. Іран.* Зусім не, нікольк не (любіць каго-н.). — *Таццяначка, ну чаго б табе сердаваць, калі ж дужа я цябе кахаю... — Як сабака палку. — Табе жарты ўсё.* Лынькоў. — *Так цябе дзеўкі баяцца?.. — Любяць, а не баяцца, браце Якаў. — Здарава ж яны цябе любяць! — Як сабака палку.* Чарнышэвіч.

Набрацца **ЯК (ШТО) САБ`АКА БЛ`ОХ**. *Акал. Праст. Неадабр.* Занадта многа. *Угавары свайго, каб жыў, як чалавеку належыць, строга. А то навучыўся, гіцаль, ад гэтага Бяскішкіна, набраўся як сабака блох.* Караткевіч. – *А раптам не будзе пугі?.. Як будзеш паварочваць каровы? За рогі? – За хвасты. – Круціць хвасты... Цоб-цабэ. – Ну, набраўся ты як сабака блох.* Шамякін. *Ён набраўся гэтых імён як сабака блох, а яны ўсе, як і мясціны, у якіх ён жыў, чужыя, проста крадзеныя ім...* «Полымя». *Но Пасаран падаў новую каманду, дзе і калі набраўся ён гэтых каманд што сабака блох, сапраўдны камандзір: — На месцы аць-два, стой. Направа. Падраўняцца.* Казько.

*САБАКАМ* ● **САБАКАМ СЕНА КАСІЦЬ** Гл. касіць.

**ЯК КОТ З САБАКАМ.** Гл. кот.

*САБАКАМІ* ● **З САБ`АКАМІ** не знойдзеш, не адшукаеш. *Акал. Праст.* Ніякім чынам, аніяк. **Сін.**: днём з агнём (у 1 знач.); са свечкай. — *Вунь, глядзі, лапавухая [свіння] да кустоў пацягнула, — паказаў пастух Язэпку. — Бяжы адвярні. Бо там яе і з сабакамі не знойдзеш.* Якімовіч. *Калі Мураўскі вырашыў дэзерціраваць, дык ён і схованку падшукаў надзейную. Цяпер з сабакамі не адшукаеш. яго.* Машара.

*САБАКІ* ● **БЫЛА Ў САБАКІ ХАТА.** Гл. хата.

**У САБАКІ ВАЧЭЙ ПАЗЫЧАЦЬ.** Гл. пазычаць.

**ХОЦЬ ТЫ Ў САБАКІ ВАЧЭЙ ПАЗЫЧ** *каму.* Гл. пазыч.

**ЯК САБ`АКІ РВ`УЦЬ** *што. У безас. ужыв. Разм.* Вельмі моцна навярэджана (ад працяглай хады, бегу і пад.). Часцей пра ногі. — *Што з табой, Касьянавіч?.. — Нага, каб яе ліха... Як сабакі рвуць яе.* Левановіч. *За дзень нахаджуся, ногі як сабакі рвуць, аднак выгляду не падаю.* Лобач.

*САБАКУ* ● Прапасці **ЗА САБ`АКУ.** *Акал. Праст.* Невядома дзе. Часцей пра кепскага чалавека. *[Сідара] забралі, як патрэбнага пры конях, і так ён знік з родных мясцін, а для добрых людзей — «прапаў за сабаку».* Брыль.

**ПА САБАКУ З РОТА СКАЧА** *ў каго.* Гл. скача.

**САБАКУ З’ЕЎ** *на чым, у чым.* Гл. з’еў.

**САБАКУ ПАД ХВОСТ.** Гл. хвост.

**ХОЦЬ НА САБАКУ ВЫЛІ.** Гл. вылі.

*Зажываць, загойвацца* **ЯК НА САБ`АКУ.** *Акал. Разм.* Даволі хутка і без якіх-н. ускладненняў. *Жнеш, бывала, парэжаш, руку — абальеш і зажыве як на сабаку.* Місько. *Сянчыла пасля гэтага хваліўся: — А на мне ўсё зажывае як на сабаку.* Сіпакоў. — *Нідзе болю і не чую. — Дзіва што, на маладым зажывае як на сабаку, — не ўтрываў і аказаўся Якшук.* Адамчык. — *Ну, што я казала? Вось вы і ходзіце. Як адчуваеце? — Нармальна. На мне ўсё загойваецца як на сабаку.* Левановіч.

**ЯК САБАКУ ПЯТАЯ НАГА.** Гл. нага.

*САБАЧАЯ* ● **САБАЧАЯ НОЖКА.** Гл. ножка.

*САБАЧУЮ* ● **НА САБАЧУЮ ПУГУ.** Гл. пугу.

**ПУСЦІЦЦА Ў САБАЧУЮ СКУРУ.** Гл. пусціцца.

*САБЕ* ● **БРАЦЬ <САБЕ> У ГАЛАВУ** *што.* Гл. браць.

**ВЕДАЦЬ САБЕ ЦАНУ.** Гл. ведаць

**ВІЦЬ <САБЕ> ГНЯЗДО.** Гл. віць.

**ДАВАЦЬ АБ САБЕ ЗНАЦЬ.** Гл. даваць.

**ДУРЫЦЬ САБЕ ГАЛАВУ.** Гл. дурыць.

**ЗАВЯЗВАЦЬ САБЕ СВЕТ.** Гл. завязваць.

**ЗАМЫКАННЕ САМОГА Ў СЯБЕ.** Гл. замыканне.

**ЗАМЫКАЦЦА Ў САБЕ.** Гл. замыкацца.

**ЗАРУБІЦЬ <САБЕ> НА НОСЕ** *<што>.* Гл. зарубіць.

**ЗВЯЗАЦЬ САБЕ РУКІ.** *Зак. да* **ЗВЯЗВАЦЬ САБЕ РУКІ.**

**ЗВЯРНУЦЬ <САБЕ> ГАЛАВУ.** Гл. звярнуць.

**ЗЛАМАЦЬ САБЕ ГАЛАВУ.** Гл. зламаць.

**ЗНАЙ САБЕ.** Гл. знай.

**ЗНАЙСЦІ САБЕ МАГІЛУ** *дзе.* Гл. знайсці.

**І Ў ВУС <САБЕ> НЕ ДЗЬМУЦЬ.** Гл. дзьмуць.

**КУСАЦЬ <САБЕ> ЛОКЦІ.** Гл. кусаць.

**ЛАМАЦЬ <САБЕ> ГАЛАВУ** *над чым.* Гл. ламаць.

**ЛАМАЦЬ <САБЕ> РУКІ.** Гл. ламаць.

**МАТАЦЬ <САБЕ> НА ВУС** *што.* Гл. матаць.

**НАБІВАЦЬ САБЕ ГУЗ НА ЛБЕ.** Гл. набіваць.

**НАБІВАЦЬ <САБЕ> КІШЭНЬ.** Гл. набіваць.

**НАБІВАЦЬ САБЕ ЦАНУ.** Гл. набіваць.

**НАБІРАЦЬ САБЕ Ў ГАЛАВУ** *<што>.* Гл. набіраць.

**НАДЗЯВАЦЬ <САБЕ> ХАМУТ НА ШЫЮ.** Гл. надзяваць.

**НАСТУПАЦЬ САБЕ НА ГОРЛА.** Гл. наступаць.

**НАСТУПАЦЬ САБЕ НА ЯЗЫК.** Гл. наступаць.

**НЕ ЗНАХОДЗІЦЬ <САБЕ> МЕСЦА.** Гл. знаходзіць.

**НЕ МАГЧЫ ЗНАЙСЦІ САБЕ МЕСЦА.** Гл. магчы.

**НЕ ПА САБ`Е** *каму. У безас. ужыв. Разм.* **1**. Кепска, блага. Пра стан недамагання. *Зосі стала неяк не па сабе, нудна і ўтомна, пачаў марыць сон.* Гартны. *Увесь час Максіму было не па сабе, яго кідала то ў пот, то ў холад, здавалася, захварэў.* Саламаха.

**2**. Няёмка, прыкра, нядобра. Пра стан збянтэжанасці, разгубленасці і пад. ад незвычайнасці чаго-н. *І толькі тут заўважыў, што ён не адзін у пакоі: пара мутных старэчых воч глядзела на яго, сачыла за ім. Мухіну стала не па сабе.* Лынькоў. *Максіму было не па сабе. Ён не любіў, каб яго шкадавалі, не любіў і сам шкадаваць, і таму хмурыўся, злаваўся.* Кудравец.

**НЕ Ў САБ`Е.** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У вельмі дрэнным настроі, моцна ўсхваляваны. **Сін**.: сам не ў сабе; як не свой; сам не свой; як пад зямлёй; як у ваду апушчаны; як цень (у 2 знач.). *Марта была не ў сабе і маўчліва падала ёй [Зосі] вынутай з печы цёплай стравы.* Гартны. *І па голасе, і па тым, як ходзяць яе рукі, свёкар пазнаў, што Зося не ў сабе.* Крапіва. *Люба не ведала, пра што загаманіць з бацькам. Бачыла, што ён не ў сабе нешта і прыехаў не абы толькі прыехаць.* Мурашка.

**НІШТО САБЕ.** Гл. нішто.

**ПАВЕСІЦЬ <САБЕ> ЗАМОК НА РОТ.** Гл. павесіць.

**ПРАБІВАЦЬ САБЕ ДАРОГУ.** Гл. прабіваць.

**ПРАКЛАДАЦЬ САБЕ ДАРОГУ.** Гл. пракладаць.

**ПРАЦЯРЭБЛІВАЦЬ САБЕ ШЛЯХ** *куды.* Гл. працярэбліваць.

**ПСАВАЦЬ КРОЎ САБЕ.** Гл. псаваць.

**ПУСКАЦЬ САБЕ КУЛЮ Ў ЛОБ.** Гл. пускаць.

**РАЗВЯЗВАЦЬ САБЕ РУКІ.** Гл. развязваць.

**РВАЦЬ НА САБЕ ВАЛАСЫ.** Гл. рваць

**РВАЦЬ САБЕ ДУШУ.** Гл. рваць.

**РЭЧ У САБЕ.** Гл. рэч.

**САБЕ НАЎМЕ** Гл. наўме.

**ПАД НОС.** Гл. нос.

**САМА САБЕ ГАСПАДЫНЯ.** Гл. сама.

**САМ НЕ Ў САБЕ.** Гл. сам.

**САМ ПА САБЕ.** Гл. сам.

**САМ САБЕ.** Гл. сам.

**САМ САБЕ ГАЛАВА.** Гл. сам.

**САМ САБЕ ГАСПАДАР.** Гл. сам.

**СКРУЦІЦЬ САБЕ ВЯЗЫ.** Гл. скруціць.

**СКРУЦІЦЬ <САБЕ> ГАЛАВУ.** Гл. скруціць.

**ТАК САБЕ.** Гл. так.
**ТРЫМАЦЬ ПРЫ САБЕ** *што.* Гл. трымаць.
**УБІВАЦЬ САБЕ Ў ГАЛАВУ** *што.* Гл. убіваць.
**УЗВАЛЬВАЦЬ САБЕ НА ПЛЕЧЫ** *што.* Гл. узвальваць.
**УЗЯЦЬ <САБЕ> У ТОЛК** *што.* Гл. узяць.
**ШУКАЦЬ САБЕ ПЯТЛІ <НА ШЫЮ>.** Гл. шукаць.

*САБОЙ* ● **АВАЛОДВАЦЬ САБОЙ.** Гл. авалодваць.
**ВАЛОДАЦЬ САБОЙ.** Гл. валодаць.
**ГУБЛЯЦЬ ГРУНТ ПАД САБОЙ.** Гл. губляць.
**ЗМАГАЦЦА САМОМУ З САБОЙ.** Гл. змагацца.
**ЗЯМЛІ НЕ ЧУЦЬ ПАД САБОЙ.** Гл чуць.
**НЕ ЧУЦЬ НОГ ПАД САБОЙ.** Гл. чуць.

**ПАД САБ`ОЙ** <u>*мець.*</u> *Акал. Разм.* У падначаленні, у падпарадкаванні. — *Віншую! Ты, кажуць, начальніца... Ужо і людзей маеш пад сабою! — залапатала яна [Валя].* Карпюк.

**ПАКІДАЦЬ ЗА САБОЙ** *каго.* Гл. пакідаць.
**ПАЛІЦЬ <УСЕ> МАСТЫ <ЗА САБОЙ>.** Гл. паліць.
**ПАНЕСЦІ <З САБОЙ> У МАГІЛУ** *што.* Гл. панесці.
**САМ З САБОЙ.** Гл. сам.

<u>*Быць, заставацца, адчуваць сябе*</u> **САМ`ІМ САБ`ОЙ.** *Кампанент вык. Функц, не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Такім, які ёсць; натуральным, непасрэдным, адпаведным сваёй унутранай сутнасці. **Сін**.: сам сабой (у 3 знач.). *Не быў бы ён [Яніс] самім сабою, каб не падправіў.* Караткевіч. *Людзі гаварылі цяпер вольна, без агляд кі выказвалі свае думкі-меркаванні — адным словам, былі самімі сабой.* Дамашэвіч. *Толькі як выйшлі за заводскую браму, я адчуў сябе зноў самім сабою, як бы я падрос, пабольшаў.* Сабаленка.

**САМ-НАСАМ З САБОЙ.** Гл. сам.
**САМО САБОЙ.** Гл. само.
**САМО САБОЙ <ЗРАЗУМЕЛА>.** Гл. само.
**САМ САБОЙ.** Гл. сам.
**САЎЛАДАЦЬ З САБОЙ.** Гл. саўладаць.

*САБРАЦЦА* ● **САБРАЦЦА З ДУМКАМІ.** *Зак. да* **ЗБІРАЦЦА З ДУМКАМІ.**
**САБРАЦЦА З ДУХАМ.** *Зак. да* **ЗБІРАЦЦА З ДУХАМ.**
**САБРАЦЦА З СІЛАМІ.** *Зак. да* **ЗБІРАЦЦА З СІЛАМІ.**

*САБРАЦЬ* ● **САБРАЦЬ ВЯРШКІ.** *Зак. да* **ЗБІРАЦЬ ВЯРШКІ.**

*САВЕТАЎ* ● **НЕ ГАЛАВА, А ДОМ САВЕТАЎ** *у каго.* Гл. галава.

*САВЕЦКАЕ* ● *Брэша* **ЯК САВЕЦКАЕ РАДЫЁ.** Гл. радыё.

*САВОЙ* ● **ЦІ САВ`ОЙ АБ П`ЕНЬ ЦІ ПН`ЁМ АБ САВ`У (ПА САВ`Е).** *Акал. Разм.* Аднолькава, тое самае. **Сін**.: не кіем дык палкай (у 1

знач.); што ў лоб, што па лбе. — *Думаеш, дужа патрэбен ты немцам. Дзякуй Крамеру, ён тваю душу на свеце трымае. Без яго даўно б быў на шворцы. — Ці савой аб пень ці пнём аб саву — усё роўна, — рагоча Тоўсцік.* Навуменка. *[Зорын:] Табе як рапартаваць: вусна ці ў пісьмовай форме? [Корань:] Адна халера — ці савой аб пень ці пнём аб саву.* Васілеўскі. *[Апанас:] Немцаў прагоняць. І што я скажу, чым апраўдвацца буду?.. Ці пнём па саве ці савою аб пень... Куды ні кінь — усюды клін...* Сачанка.

*САВУ* ● **ПАКАЗАЦЬ САВУ СМАЛЕНУЮ** *каму.* Гл. паказаць.

**ЦІ САВОЙ АБ ПЕНЬ ЦІ ПНЁМ АБ САВУ.** Гл. савой

*САВЫ* ● **САВЫ СМАЛЕНАЙ НЕ БАЧЫЎ.** Гл. бачыў.

*САГНАЦЬ* ● **С`ЕМ ПАТ`ОЎ САГН`АЦЬ.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знясіліцца, стаміцца. **Сін**.: гнуць <сваю> спіну (у 1 знач.); грэць лоб; ліць пот; мазоліць рукі; не разгінаць спіны; сем патоў выліць (у 1 знач.); цягнуць лямку <*каго, чаго*>; цягнуць ярмо <*каго, якое*>. — *От даў дык даў. Сем патоў сагнаў, — выдыхнуў Іван. — Два гады не парыўся... Цяпер адчуў, што я дома. Родным духам пахне...* Левановіч. *Я сем патоў сагнаў, пакуль.. пуню гною выкінуў.* Юрчанка.

*САГНУЦЬ* ● **САГНУЦЬ У БАРАНОЎ РОГ** *каго. Зак. да* **ГНУЦЬ У БАРАНОЎ РОГ** *каго.*

**САГНУЦЬ У ДУГУ** *каго. Зак. да* **ГНУЦЬ У ДУГУ** *каго.*

**САГНУЦЬ У ТРЫ ПАГІБЕЛІ** *каго. Зак. да* **ГНУЦЬ У ТРЫ ПАГІБЕЛІ** *каго.*

*САДЖАЦЬ* ● **САДЖАЦЬ НА ПАСАД** *каго.* Гл. садзіць.

*САДЗІСЯ* ● **ХОЦЬ Т`Ы М`АКАМ САДЗ`ІСЯ**. *Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм.* Цяжка, безвыходна. Выказванне адчаю, бяссілля. **Сін.**: хоць воўкам вый; хоць рэпку спявай; хоць <ты> гвалт крычы; хоць <ты> плач. *Толькі адзін старшыня, Келькут, прыстойна гаворыць [па-руску]. Што рабіць? Хоць ты макам садзіся. Вось вам і методыка з педагогікай.* Караткевіч.

*САДЗІЦЦА* ● **САДЗ`ІЦЦА НА ГАЛАВ`У** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Поўнасцю падпарадкаваць сабе, сваёй волі каго-н. **Сін**.: браць верх (у 1 знач.); браць у <свае> рукі (у 1 знач.); віць вяроўкі *з каго*; выкручваць сырыцу *з каго*; ездзіць вярхом *на кім*; ездзіць на карку *чыім*; запрагаць у хамут *каго*; надзяваць аброць *на каго, на што*; надзяваць хамут *на каго*; надзяваць ярмо на шыю *каму, каго*; прыбіраць да рук (у 1 знач.); садзіцца на карак *каму, чый, каго* (у 1 знач.); сціскаць у кулак *каго*; убіраць у <свае> рукі (у 1 знач.). **СЕСЦІ НА ГАЛАВУ** *каму. Зак.*

*Школьніца трымалася педагагічнага прынцыпу: не ўступаць пястусе; усе, майляў, уступаюць ёй, і яна хутка сядзе на галаву.* Шамякін. *Гэта ты, Тоня, усё глядзіш на яго, як на маленькага. «Сыночак, сыночак...» А гэты сыночак хутка і на галаву сядзе!* Гіль.

**САДЗ`ІЦЦА НА К`АРАК (НА Ш`ЫЮ)** *каму, чый, каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Поўнасцю падпарадкоўваць сабе, выкарыстоўваць каго-н. у сваіх інтарэсах. **Сін**.: браць верх (у 1 знач.); браць у <свае> рукі (у 1 знач.); віць вяроўкі *з каго*; выкручваць сырыцу *з каго*; ездзіць вярхом *на кім*; ездзіць на карку *чыім*; запрагаць у хамут *каго*; надзяваць аброць *на каго, на што*; надзяваць хамут *на каго*; надзяваць ярмо на шыю *каму, каго*; падмінаць пад сябе *што, каго*; прыбіраць да рук (у 1 знач.); садзіцца на галаву *каму*; сціскаць у кулак *каго*; убіраць у <свае> рукі (у 1 знач.). *У кожным маёнтку садзіцца на шыю народа «зондэрфюрэр».* Чорны. **СЕСЦІ (УССЕСЦІ) НА КАРАК (НА ШЫЮ)** *каму, чый, каго. Зак. Вы толькі падумайце: маленькая жменька дваран і багатыроў села вам на карак, захапіла лепшыя землі, жыве з вашае працы і вас жа катуе, чыніць несправядлівасці, пазаганяла вас у норы, у шчыліны, парабіла вас нявольнікамі.* Колас. *Ніхто Нацэвічу і такім, як ён, улады не давай, самі ўзялі.. Дазволь ім, яны ўраз табе на карак уссядуць.* Галавач. *А гэта Барышава, відаць, стрэмка добрая. Глядзіце, каб не села на шыю і вам.* Грахоўскі.

**2**. Абцяжарваць каго-н., знаходзячыся на яго ўтрыманні. **Сін**.: вісець на шыі *ў каго, чаго, чыёй* (у 1 знач.); есці хлеб (у 2 знач.); сядзець на шыі *чыёй, у каго, каго.* **Ант**.: злазіць з карку *чыйго. Э не, дачушка, садзіцца на ваш карак я не хачу. Глядзіце сябе, абы вам было, а мы, старыя, так-сяк пражывём...* Хадкевіч. *Тое, што зарабляю я ды Грышка, на жыццё ідзе: ні свайго парасяці, ні каровы мы пакуль не маем, а на тваю шыю садзіцца, мама, не хачу.* І.Капыловіч. **СЕСЦІ (УССЕСЦІ) НА КАРАК (НА ШЫЮ)** *каму, чый, каго. Зак. Мардвілка пакуль бацькоў ссе, ажэніцца — на жончыну шыю сядзе. Будзе яму жонка за няньку-карміцельку.* Шыцік.

**САДЗ`ІЦЦА НА М`ЕЛЬ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн са знач. асобы ці абстр. прадмета. Трапляць у вельмі цяжкае становішча. *Дырэктар.. на дзіва памяркоўны і спагадлівы чалавек. Ён быццам не заўважаў, як кіруемая ім установа садзіцца на мель.* «Звязда». **СЕСЦІ НА МЕЛЬ.** *Зак. І галічанскія абшары дарэмна бралі з нас ахвяру — ганебна селі тут на мель.* Колас. *Толькі быў той дрот кароткі — не хапіла для праводкі. І прыйшлося б хлопцу горка, сеў надоўга б ён на мель...* Вітка.

**САДЗ`ІЦЦА НА М`ЕСЦА** *чыё. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Займаць чыю-н. пасаду. **СЕСЦІ НА МЕСЦА** *чыё. Зак. [Русаковіч:] Ёсць яшчэ адна акалічнасць, якая не дазваляе мне прыняць гэту прапанову... Выходзіць, што я сапхнуў Сухадольскага, каб сесці на яго месца.* Крапіва. *На яго [Тодарава] месца сеў Хлуста. І не арандатарам, а гаспадаром.* Чарнышэвіч.

**САДЗ`ІЦЦА НА СВАЙГ`О <ЛЮБ`ІМАГА, УЛЮБ`ЁНАГА> КАНЬКА.** *Незак. Разм. Жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачынаць размову на ўпадабаную, улюбёную тэму. **Ант**.: злазіць са свайго канька. *Ніна старалася ўнікнуць гэтай размовы, перайсці на іншую тэму, але Клаўдзя Рабертаўна з зайздросным спрытам заўсёды выварочвалася і праз хвіліну-другую зноў садзілася на свайго канька.* Лобан. **СЕСЦІ НА СВАЙГО <ЛЮБІМАГА, УЛЮБЁНАГА> КАНЬКА.** *Зак. Васько сеў на свайго канька, і цяпер, ведала Вера Паўлаўна, з ім заводзіць сурёзную размову няма сэнсу.* Асіпенка. *Сіняк, як заўсёды, сеў на свайго любімага канька. Ён лічыў, што яго абышоў лёс, што толькі ў горадзе маглі б поўнасцю раскрыцца ўсе яго шматлікія таленты.* Дайнека. *[Карнейчык:] Нічога, возьмеш сябе ў рукі, сядзеш зноў на свайго ўлюбёнага канька, на землеўпарадкаванне...* Крапіва. *«Паліцік» Аляксей уссеў на свайго канька: абураецца саюзнікамі, якія так лёгенька дайшлі амаль да Берліна.* Місько.

**САДЗ`ІЦЦА НА С`ЕМ СУК`ОЎ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Брацца адразу за некалькі спраў. — *На сем сукоў садзіцца. — Ведае, што калі і адсякуць колькі, то на астатніх утрымаецца.* «ЛіМ». **СЕСЦІ НА СЕМ СУКОЎ.** *Зак. Як сядзеш на сем сукоў, можна ні на адным не.. [утрымацца].* Юрчанка. *Як кажуць, на сем сукоў садзіўся Гуркоў.* «ЛіМ».

**САДЗ`ІЦЦА НА Т`ЫМ С`АМЫМ (НА Т`ЫМ ЖА) М`ЕСЦЫ.** *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нічога не змяніўшы па-свойму, пагаджацца з ранейшым станам рэчаў. **СЕСЦІ НА ТЫМ САМЫМ (НА ТЫМ ЖА) МЕСЦЫ.** *Зак. [Порхаўка:] Будуць жыць як набяжыць. А Высоцкі.. на тым жа месцы сядзе. Малады, гарачы, пасталее — астыне.* Гурскі. *Нічога ў яго не выйдзе, паскача і на тым самым месцы сядзе.* «Полымя».

**САДЗ`ІЦЦА НА ХВ`ОСТ** *каму, чый. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Даганяць каго-н., набліжацца да таго, хто рухаецца наперадзе. **Сін**.: вісець на плячах (у 1 знач.); вісець на хвасце *ў каго.* **СЕСЦІ НА ХВОСТ** *каму, чый. Зак. Якімец твой іх заўважыў і сеў на хвост, як гаворыцца: тэпаў, назіркам, аж да самага лагера!* Савіцкі. *Капаць нікому не хацелася — немцы*

*адступалі так, што дывізія ніяк не магла «сесці на хвост».* А.Жук.

**2**. Сачыць за чыімі-н. паводзінамі, учынкамі і пад., высочваць каго-н. **СЕСЦІ НА ХВОСТ** *каму, чый. Зак. [Корзун:] Няблага было б, каб кватарант даведаўся, што мы на яго хвост селі. Хай занервуецца, занепакоіцца.* Шыцік. *Аксана ехаць куды сабралася?.. Ад маці хаваецца, каб не западозрыла і не села на хвост.* Масарэнка.

**САДЗ`ІЦЦА НА ХЛ`ЕБ І ВАДУ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Абмяжоўваць сябе ў самым неабходным, харчавацца самай простай ежай. **СЕСЦІ НА ХЛЕ́Б І ВАДУ.** *Зак. Аўтар зноў і зноў ладзіў прэзентацыі кніжкі... І стаміўся ад гэтых высілкаў... І тады аўтар вырашыў сесці на хлеб і ваду і раздаць рэшткі тыражу ўсім-усім сваім знаёмым. На апошнія грошы ён выкупіў дзве свае кніжкі ў той самай, знаёмай з маленства вясковай краме.* Рублеўскі.

**САДЗ`ІЦЦА НЕ Ў СВА`Е С`АНІ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Брацца не за сваю справу. **СЕСЦІ НЕ Ў СВАЕ САНІ.** *Зак. [Дымава] паслалі ў саўгас інжынерам, паехаў без вялікай ахвоты. І тут ён зразумеў, што сеў не ў свае сані.* Дзятлаў. *Яўна не ў свае сані сеў чалавек, а няньчыліся з ім.* Ярашэвіч.

**САДЗ`ІЦЦА Ў ГАЛ`ОШ.** *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Пацярпеўшы няўдачу, аказвацца ў няёмкім, смешным становішчы. **Сін**.: пашыцца ў дурні; садзіцца ў лужыну; сесці макам (у 1 знач.); сесці на бабы. *[Мяснікоў:] Што новага ў вас? Вайнштэйна асвісталі? Садзіцца Бунд у галош і ў нас.* Клімковіч. **СЕСЦІ Ў ГАЛОШ.** *Зак. Асёл раптоўна пагарэў... Учора капытом замахваўся з трыбуны, а сёння — у галош сеў.* Э.Валасевіч.

**САДЗ`ІЦЦА Ў Л`УЖЫНУ (У Л`УЖУ).** *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пацярпеўшы няўдачу, аказвацца ў няёмкім, смешным становішчы. **Сін**.: пашыцца ў дурні; садзіцца ў галош; сесці макам (у 1 знач.); сесці на бабы. **СЕСЦІ Ў ЛУЖЫНУ (У ЛУЖУ).** *Зак. Становячыся дарослымі, людзі выяраюць кожны свой крок, каб.. не выглядаць белай варонай. Інакш можна асароміцца, вобразна кажучы, сесці ў лужыну.* «Звязда». *— Не сядзеш у лужыну, — усумніўся Шарай, выслухаўшы Корзуна. — Абвінавачванне сур'ёзнае, тут мы не маем права на памылку.* Шыцік.

*САДЗІЦЬ* ● **САДЗ`ІЦЬ НА ВАД`У** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Караць голадам. **ПАСАДЗІЦЬ НА ВАДУ** *каго. [Ладымер:] Як будзеш ты мне размяркоўваць ураджай, дык што ты мне дасі?! На ваду ты мяне пасадзіш?!* Чорны. *Усюды павінна быць дысцыпліна, а ў сям'і асабліва. Асабліва ў сям'і. Тут*

*камандзіру не пажалішся і на ваду не пасадзіш...* Кудравец.

**САДЗ`ІЦЬ НА М`ЕЛЬ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Ставіць каго-н. у вельмі цяжкае становішча. *Любоў адкрывае скарбы, абсягі новых зямель. Варожасць кідае на скалы, нянавісць садзіць на мель.* Вярцінскі. **ПАСАДЗІЦЬ НА МЕЛЬ** *каго. Зак. [Хлопцы] і самі думалі, што Донька абразіў хутаранцаў, ды і ўступаць з імі ў бойку не адважыліся; бо хутаранскіх было болей. Затое дарогаю Доньку перапала. —Эх, Даніэль, Даніэль, пасадзіў ты нас на мель...* Броўка.

**САДЗ`ІЦЬ НА Ш`ЫЮ (НА К`АРАК)** *чыю, каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Навязваць чыю-н. уладу, поўнае падпарадкаванне каму-н. **ПАСАДЗІЦЬ НА ШЫЮ (НА КАРАК)** *чыю, каго. Зак. [Коннік:] Яна [нямецкая буржуазія] хоча.. вярнуць правы землеўласнікам, каб на нашу шыю пасадзіць зноў пана.* Колас. *І нікому не ўдасца пасадзіць нам на карак буржуяў.* Гурскі.

**2**. Абцяжарваць каго-н. клопатамі аб апекаванні над кім-н., утрыманні каго-н. *Мне абсалютна ясна, што ёй трэба выйсці замуж. Ніякіх іншых мэт у яе за душой няма. Ёй трэба замуж! І чаму ты... не хто-небудзь, а ты павінен яе садзіць на сваю шыю?* Ярашэвіч. **ПАСАДЗІЦЬ НА ШЫЮ (НА КАРАК)** *чыю, каго. Зак. [Кудрыцкая:] Але пасадзіць сабе на шыю на векі вечныя мільёны непрацаздольных людзей — наўрад ці будзе ў інтарэсах грамадства.* Крапіва.

**САДЗ`ІЦЬ (САДЖ`АЦЬ) НА ПАС`АД** *каго. Незак. Устар. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. няпэўнай колькасці асоб. Аддаваць замуж. *Як маладую саджалі на пасад, — казка така, што не стала б языка.* Дунін-Марцінкевіч. *Раз бяседа вялікая ў князя была: на пасад дачку княжну садзілі.* Купала. *У адным выпадку, дзе даецца апавяданне вясковай бабулі пра тое, як даўней маладую садзілі на пасад, ён, па няўвазе ці ад пашаны да дакладнасці, выдаў сябе...* Брыль. **ПАСАДЗІЦЬ НА ПАСАД** *каго. Зак. [Базыль:] Засаромелася, уцякла... [Тамаш:] Нічагутка, зловіш... І на пасад пасадзім.* Галубок.

**САДЗ`ІЦЬ У ГАЛ`ОШ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ставіць у няёмкае, смешнае, бязвыхаднае становішча. **Сін**.: садзіць у лужыну *каго.* **ПАСАДЗІЦЬ У ГАЛОШ** *каго. Зак. [Ваня:] Глядзі кожны дзень «Очевидное — невероятное», чытай «Вакол свету» — і любога прафесара ў галош пасадзіш.* Губарэвіч. *Падвёў ты мяне, таварыш Капытоў... Увесь заўком пасадзіў у галош... Собіла ж мне падпісаць тваю рэляцыю!* Аношкін.

**САДЗ`ІЦЬ У Л`УЖЫНУ (У Л`УЖУ)** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры

дзейн. са знач. асобы. Ставіць у няёмкае, смешнае, бязвыхаднае становішча. **Сін**.: садзіць у галош *каго.* **ПАСАДЗІЦЬ У ЛУЖЫНУ (У ЛУЖУ)** *каго. Зак. Пытанне задавалася з намерам пасадзіць хлопца ў лужыну.* Гурскі.

*САДОВАЯ* ● **ГАЛАВА САДОВАЯ.** Гл. галава.

*САДОМ* ● **САД`ОМ І ГАМ`ОРА.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* Крайняе бязладдзе, поўная неразбярыха, сумятня. **Сін**.: вавілонскае стоўпатварэнне; мамаева пабоішча (у 2 знач.); страсці-мардасці; сыр-бор; шурум-бурум. **Ант**.: ціш ды гладзь. *Сягоння на сталах кабінетаў садом і гамора партфеляў, капелюшоў, шапак, кніг і рукапісаў з шафаў і шуфляд.* Бядуля. *Я не хачу!.. Я не магу кожны дзень прыязджаць дамоў, дзе садом і гамора! Каму ты гэта робіш? Мне гэта не патрэбна!* Карпаў. *«Хейнкелі» пацэлілі ў бензасховішча, усё палала, гарэла, трашчала. Садом і гамора!* Шамякін. *А музыка ўжо зноў грыміць, зноў садом і гамора, і Сашу адціснулі ад Раі...* Місько. *Як ні цяжка было ў 1918 г. ў Смаленску, лёс яго [Купалы] разам з тым нібы мілаваў: ён не бачыў садому і гаморы — усяе валтузні, грызні, палітычнай спекуляцыі...* Лойка.

*САДРАЦЬ* ● **САДРАЦЬ СКУРУ** *з каго. Зак. да* **ДРАЦЬ СКУРУ** *з каго.*

*САЖАНЬ* ● **КАС`Ы (К`ОСЫ) С`АЖАНЬ У ПЛЯЧ`АХ.** *Мн. не ўжыв. Азн. і вык. Разм.* Рослы, плячысты, магутнага складу. Пра мужчыну. *Марыя Міхайлаўна ўважліва агледзела рослага праваднікa. Касы сажань у плячах. Волат.* Мяжэвіч. *Стараста Дзям'ян, косы сажань у плячах мужчына, ужо снаваў між людзей, збіраў ахвяраванні.* Аношкін.

*САЖНЕМ* ● **САЖНЕМ НОСА НЕ ДАСТАЦЬ** *у каго, каму.* Гл. дастаць.

*САЖНІ* ● **БАЧЫЦЬ НА ТРЫ САЖНІ ПАД ЗЯМЛЁЙ.** Гл. бачыць.

**БАЧЫЦЬ НА ТРЫ САЖНІ Ў ЗЯМЛЮ.** Гл. бачыць.

*САКОЛ* ● **ГОЛ ЯК САКОЛ.** Гл. гол.

*САКРЭТ* ● **САКР`ЭТ ПАЛІШЫН`ЕЛЯ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Уяўная тайна; тое, што хоць і лічыцца тайнай, але стала вядома ўсім. *Дзялюся сакрэтам палішынеля за ўмераную плату.* «ЛіМ». *Парламенцкія таямніцы аказаліся ці не сакрэтам палішынеля.* «Звязда». *Мяркую, аднак, што гэта толькі для нас навіна, а там, за акіянам, – сакрэт палішынеля.* Якавенка.

*САКУ* ● **ВАРЫЦЦА Ў СВАІМ САКУ.** Гл. варыцца.

**У <С`АМЫМ> САК`У.** *Вык. і азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У поўным росквіце фізічных сіл. *Уніят быў яшчэ не стары, як кажуць, у самым саку.* Машара. *А некалі, роўна трынаццаць гадоў таму назад, гэта быў дзябёлы, ружавашчокі мужчына — «у*

*самым саку», гаварылі пра яго.* Праскураў. *Будзе ўнукаў, як пяску: ты ж — дзядок яшчэ ў саку.* Крапіва. *Дзіне Сяргееўне зараз трыццаць восем гадоў. Цяжару такога веку пакуль не адчуваюць. Пра такі век пажылыя мужчыны кажуць: «Жанчына яшчэ ў саку!.»* А.Марціновіч.

*САЛА* ● **ЗАЛІВАЦЬ САЛА ЗА СКУРУ** *каму.* Гл. заліваць.

**ЯК КОТ НА САЛА.** Гл. кот.

Дурны **ЯК С`АЛА БЕЗ ХЛ`ЕБА.** *Акал. Разм.* Вельмі, надзвычай (дурны); пра каго-н. **Сін.**: як бот з <левай> нагі; як пень; як сабака да году. *У вачах маці гэта быў недалёкі чалавек, і, калі ён іншы раз пярэчыў ёй, яна нават не спрачалася, проста нібыта сама сабе ўголас зазначала: «Дурны як сала без хлеба». Або казала: «Сталіца Камбоджы». Ёсць такая краіна, яе сталіца Пном-Пень, і, значыць, айчым – пнём пень, пень пнём.* Кусянкоў. *– Як настроены стараста?.. Ваш – поскудзь? – Паскуда, хоць дурны як сала без хлеба*... Пестрак. [*Даніловіч*, с. 245: як сала без хлеба.]

*САЛАВЕЙЧЫКІ* ● **САЛАВЕЙЧЫКІ ПЯЮЦЬ У ЖЫВАЦЕ** *ў каго, у чым.* Гл. салаўі.

*САЛАМЯНАЯ* ● **САЛАМЯНАЯ ЎДАВА.** Гл. удава.

*САЛАМЯНЫ* ● **САЛАМЯНЫ ЎДАВЕЦ.** Гл. удавец.

*САЛАЎЁМ* ● **ЗАЛІВАЦЦА САЛАЎЁМ.** Гл. заліваща.

*САЛАЎІ* ● **САЛАЎ`І (САЛАВ`ЕЙЧЫКІ) ПЯ`ЮЦЬ (СПЯВ`АЮЦЬ) У ЖЫВАЦ`Е** *ў каго, чым. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. вельмі хоча есці, адчувае моцны голад. **Сін.**: жывот да спіны прырос *чый, у каго*; кішкі марш іграюць *у каго*; падцягнула жывот *у каго. [Максім:] У жываце маім ужо даўно салаўі пяюць. Паснедаем, а там...* Купала. *Сцёпка прысеў з краю, азірнуў «абед» і адчуў, што ў жываце салаўі спяваюць.* Тычына. *Было ўжо на другую гадзіну, а я яшчэ не снедаў, і ў мяне, як , кажуць, салавейчыкі ў жываце спявалі.* Шлег.

*САЛДАТЫ* ● **НІ Ў САЛД`АТЫ НІ Ў МАТР`ОСЫ НІ (А) ПАДМ`АЗВАЦЬ КАЛ`ЁСЫ.** *Часцей вык. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Сярэдні, які нічым асаблівым не вылучаецца, ні ў чым не праявіў сябе. **Сін.**: з сярэдзінкі на палавінку (у 1 знач.); не бог ведае які; ні богу свечка ні чорту качарга; ні два ні паўтара (у 1 знач.); ні рыба ні мяса; ні тое ні сёе (у 1 знач.); пасаліўшы можна есці; сюды-туды (у 1 знач.); сярэдзінка на палавінку; сярэдняй рукі; так сабе (у 3 знач.); чорт не чорт і два не выходзіць. *Чаму ён, звычайны чалавек, без асаблівых схільнасцей да чаго-небудзь, як кажуць, ні ў салдаты ні ў матросы, а падмазваць калёсы, так паблажліва ставіўся да яго [мастака]?* Вdespite Варановіч. *А вось ты, малады ды ранні, з тых, што ні ў*

*салдаты ні ў матросы ні падмазваць калёсы, чаго вылупіўся?* Саламаха. *Я валасы на сабе рву, а бацька мяне ўгаворвае, суцяшае: «Дармо што ён ні ў салдаты ні ў матросы, затое цягавіты хлопец і надзел зямлі мае»*. Гроднеў.

*САЛОМА* ● **САЛ`ОМА Ў ГАЛАВ`Е** *ў каго, чыёй. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Хто-н. дурнаваты, бесталковы, някемлівы. **Сін**.: дах паехаў *у каго*; дурны поп хрысціў *каго*; зрух па фазе *ў каго*; клёпкі не хапае <у галаве> *у каго,* мазгі адсохлі *ў каго* (у 2 знач.); мазгі набакір *у каго*; мазгі не на месцы *ў каго*; мякіна ў галаве *ў каго*; не ўсе дома *ў каго*; шарыкі за ролікі заходзяць *у каго.* **Ант**.: галава варыць *у каго*; <ёсць> <свая> галава на плячах *у каго*; кацялок варыць *у каго*; мазгі варацъ *у каго*; не галава, а дом саветаў *у каго*; светлая галава *ў каго. Няўжо ты думаеш, што ты адзін угледзеў праўду, а ўсе іншыя — сляпыя, нічога не ведаюць, не знаюць і ў галаве іх салома?* Колас.

*САЛОМАЙ* ● **МЕХ З САЛОМАЙ.** Гл. мех.

*САЛОМІНКУ* ● **ХАПАЦЦА ЗА САЛОМІНКУ.** Гл. хапацца.

**ЯК ТАПЕЛЕЦ ЗА САЛОМІНКУ.** Гл. тапелец.

*САМ* ● **САМ БОГ ПАСЛАЎ** *каго, каму, да каго.* Гл. бог.

**С`АМ (-`А, -`О, -І) ПА САБ`Е.** *Функц. не зам.* **1**. *Акал.* Без чыёй-н. дапамогі, апекі, самастойна (жыць, рабіць што-н.). **Сін**.: сам праз сябе (у 1 знач); сам сабе (у 2 знач.); сам сабой (у 1 знач.). *З гэтай пары і ўсталяваліся паміж братамі суседскія адносіны, якіх жадаў Мікіта. Пачалі яны жыць кожны сам па сабе на сваіх дварах.* Галавач. *Калі ж мне было вучыцца? Не пускалі мяне — сам ведаеш. Дый тое, што навучыўся, сам па сабе...* Каваль. *Калі бацька быў на рабоце або калі, не маючы работы, стаяў з працягнутай рукою, хлопчык быў дзесьці сам па сабе.* Чорны.

**2**. *Акал.* Без якіх-н. намаганняў, міжвольна, адвольна (адбываецца, здараецца што-н.). **Сін**.: сам сабой (у 2 знач.). *Конь, бы разумеючы штось, сам па сабе спыніўся.* Быкаў. *— Думаю, цяпер пойдзе інакш... — Само па сабе нічога не пойдзе, Міхась Кірылавіч. Усё залежыць ад нас, — сказаў Полаз.* Шамякін.

**3**. *Акал.* Самастойна, не залежачы ад каго-, чаго-н. (робіцца што-н.). *Не ведаю, ці на яго крык і гвалт, ці самі па сабе, прыйшлі члены салдатэнрата.* Гарэцкі. *Праўда, на практыцы часамі даволі цяжка вырашыць, ці можа тое ці іншае выслоўе ўжывацца само па сабе, ці не.* Крапіва. *[Ягадка:] Пад Слічэнку, значыць, працавалі? [Кічкайла:] Не... Я так... Сам па сабе...* Матукоўскі.

**4**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета.

Самастойны, незалежны ад каго-н. ці чаго-н. **Сін**.: кум каралю <і сват міністру> (у 1 знач.). *Дзесьці далёка засталася вайна, перапоўненыя салдатамі эшалоны, лазарэт, і вось ён [Тарэнта] вольны, сам па сабе, нікому не падуладны чалавек.* Галавач. *А зямля была сама па сабе: не хацела радзіць, бо ведала, што не людзі над ёй пануюць, а яна над людзьмі, і шчодра вырошчвала палын.* Каваль. *Як хто, а я — па-свойму!.. Я — сам па сабе!.. Не пайду! Скажу: не!* Мележ. *[Андрэй] не хацеў быць з іншымі, ён быў партызан, сірата, ён быў сам па сабе.* Караткевіч.

**5**. *Акал.* Па сваёй сутнасці, безадносна да чаго-н. іншага. **Сін**.: сам сабой (у 4 знач.). *Самі па сабе дакументы гэтыя нічога не давалі панскай агентуры ў сэнсе выкрыцця іншых асоб, апроч Нявіднага.* Колас. *Сама па сабе праца на заводзе была тою ж, якою ён [Рыгор] яе праводзіў, бачыў і адчуваў у Рызе.* Гартны. *Сам па сабе ўзровень мастацкага твора не заўсёды з'яўляецца паказчыкам таго, наколькі пісьменнік выкарыстаў свае творчыя магчымасці.* Крапіва.

**С`АМ (-`А, -`О, -І) ПРАЗ СЯБ`Е.** *Акал. Разм.* **1**. Без чыёй-н. дапамогі, апекі, самастойна (рабіць што-н.). **Сін**.: сам па сабе (у 1 знач.); сам сабе (у 2 знач.); сам сабой (у 1 знач.). *А потым ужо дома сталярку, бандарку Гіляры сам праз сябе дайшоў, як рабіць: кемкае ён меў вока.* Калюга.

**2**. Гвалтоўнай, не сваёй смерцю (памерці). *[Марыля:] Закон, бачыш, такі ёсць: як хто сам праз сябе памрэ, дык датуль няможна хаваць, пакуль не дойдуць, як і праз што ён душой загавеў.* Купала.

**С`АМ (-`А, -`О, -І) САБ`Е.** *Акал. Разм.* **1**. Адасоблена ад іншых (жыць). *[Лютынскі:] У іх [рабочых], брат, іначай: згуртаванасць, ёсць каму пакіраваць. А мужык — кожны сам сабе.* Крапіва. *Я прывык жыць сам сабе... Куды ні пайшоў — усё тваё з табой...* Кудравец.

**2**. Без чыёй-н. дапамогі, апекі, самастойна (жыць, рабіць што-н.). **Сін**.: сам па сабе (у 1 знач.); сам праз сябе (у 1 знач.); сам сабой (у 1 знач.). *Я магла б жыць і пры сыне, але мне лепш, калі я тут сама сабе.* Кулакоўскі. *Дзеўкі яго жылі самі сабе, але таксама адчувалі адметнасць пастуховай прафесіі — бацька прыносіў ім і хлеба і да хлеба.* Кудравец.

**3**. Ціха, ледзь чутна, шэптам (гаварыць, гаманіць і пад.). **Сін**.: сам з сабой. *Тоўсты Сімон гойдаўся на бакі і нешта мармытаў сам сабе.* Самуйлёнак.

**4**. Ніяк знешне не выказваючы, не вымаўляючы ўголас (думаць,

рашаць і пад.). **Сін**.: сам з сабой (у 3 знач.); у галаве (у 1 знач.); у думках; у душы. *«Добра ім з такім вось целам», — сам сабе Хвядос падумаў.* Крапіва. *«Мяне б то конь слухаўся лепш, — думаў сам сабе Ціток, — але хай пакіруе, яму ж цяпер не ўкажаш».* Лобан.

**С`АМ (-`А, -`О, -І) САБ`ОЙ.** *Функц. не зам.* **1**. *Акал.* Без чыёй-н. дапамогі, апекі, самастойна (жыць, расці, рабіць што-н.). **Сін**.: сам па сабе (у 1 знач.); сам праз сябе (у 1 знач.); сам сабе (у 2 знач.). *Без дапамогі, сам сабою, ён — дзяцюк, хлапчына, носіць ён вядро з вадою, як стары мужчына!* Колас. *Тут жа я прымеціў з'явішча такое: як бы ўся ў іх праца йшла сама сабою. Бо, як ні ўзіраўся, гэтак ды іначай, я там прыганятых ніякіх не бачыў.* Купала. *Сам сабою тут, хоць трэсні, не дастанеш нават крошкі.* Крапіва. *Іліко не далучаўся ні да каго. Ён жыў сам сабою.* Самуйлёнак.

**2**. *Акал.* Без якіх-н. намаганняў, міжвольна (адбываецца, здараецца што-н.). **Сін**.: сам па сабе (у 2 знач.). *За нядоўгі час сам сабою зрабіўся адбор гасцей, іх натуральны падзел на групы.* Колас. *Але не прайшло і адной хвіліны, як разгадка прыйшла сама сабою: казакі пад'язджалі да пакінутых у баразнах коней і пачыналі сячы іх грапнікамі.* Лобан. *І само сабою выйшла — стаў цурацца Грышка, не хацеў ён знацца з ёй.* А.Александровіч. *Хацелася не думаць аб гэтым, забыцца, выкінуць земляка з галавы, але думкі самі сабой настойліва таўкліся ў свядомасці.* Быкаў.

**3**. *Кампанент вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Такім, як ёсць; натуральным, непасрэдным, адпаведным сваёй унутранай сутнасці (быць, заставацца, станавіцца). **Сін**.: самім сабой. *Няхай агонь і жар пакуты навекі спаліць здзек той люты, які спрадвеку там пануе, над тым, хто родны скарб шануе і хто ўсім сэрцам і душою астацца хоча сам сабою.* Колас. *Чалавек застаецца сам сабою толькі тады, калі ён адзін.* Кудравец. *Тут кожны быць павінен сам сабой, як смага — смагай, як вада — вадой.* Куляшоў. *Як толькі параненых забрала санітарная машына і рушыла з імі назад, туды, адкуль мы ехалі, Стральбіцкая зноў стала сама сабою.* Сабаленка.

**4**. *Акал.* Па сваёй сутнасці, безадносна да чаго-н. іншага. **Сін**.: сам па сабе (у 5 знач.). *Цяпер кіно прывабіла Ганну не так само сабою, як тым, што на яго сыдзецца многа людзей; ажыла, нецярплівa забруілася надзея — будзе, мусіць, і Васіль!..* Мележ.

**С`АМ З САБ`ОЙ.** *Акал. Разм.* **1**. На адзіноце, адзін (быць, заставацца і пад.). **Сін**.: сам-насам (у 3 знач.); сам-насам з сабой. — *Ён цяпер пабяжыць дадому, — сказаў Насцін дзед. — Гэта і добра, няхай пабудзе сам з сабой, паспакайнее.* Чорны. *[Хлопчык] збірае ў*

*кулак усю сваю мужнасць, каб не заплакаць перад бацькам, які ведае, дзе і як падраны гэтыя штаны. Застаўшыся сам з сабой, ён даўно б даў рову...* Кудравец.

**2**. Ціха, ледзь чутна, шэптам (гаварыць, гаманіць і пад.). **Сін**.: сам сабе (у 3 знач.). — *Куды ж ты ўпхнуў мяне, вужака? Бадай ты спрах з сваёй нарою! — гамоніць дзядзька сам з сабою.* Колас. *Сідарчук спыніўся ў цяньку пад мокрым бязлістым клёнам і адзін сам з сабою гаварыў, гаварыў...* Пестрак.

**3**. Ніяк знешне не выказваючы, не вымаўляючы ўголас (думаць, рашаць і пад.). **Сін**.: сам сабе (у 4 знач.); у галаве (у 1 знач.); у думках; у душы. *Міхал у часе вандравання, на адзіноце сам з сабою, з гарачым сэрцам і душою развязваў важнае пытанне аб той зямельцы аб уласнай.* Колас.

**С`АМ-Н`АСАМ.** *Акал. Функц. не зам.* **1**. Без сведак, без пабочных асоб, удвух з кім-н. (гаварыць, пагаварыць, сустракацца і пад.). **Сін**.: адзін на адзін (у 1 знач.); вока на вока (у 1 знач.); з вока на вока; на чатыры вокі; тэт-а-тэт. *Пасля, сам-насам са сваім героем, я спытаўся: — Вас тады, Рафаіл Іванавіч, білі? — Ну, вядома.* Брыль. *Сыходзіла і Раечка, каб даць магчымасць Ларысе астацца сам-насам з Хвядзьком.* Лобан. *Мабыць, гэта страшней удвайне, чым на людзях сваіх, — на вайне. Ты страляеш адкрыта ў мяне. Я стаю, твар у твар, пры сцяне. Мы без сведак. Сам-насам. Адны.* Вітка.

**2**. Без саюзнікаў, памочнікаў, без падтрымкі з боку каго-н. (біцца, сустракаць небяспеку і пад.). **Сін**.: адзін на адзін (у 2 знач.); вока на вока (у 2 знач.). *[Шукайла:] Хлопцы, глядзіце! Князь мядзведзя забіў. Сам-насам, без нас!..* В.Вольскі.

**3**. На адзіноце, адзін (заставацца, рабіць што-н. і пад.). **Сін**.: сам з сабой (у 1 знач.); сам-насам з сабой. *Перакусіўшы сам-насам, замкнуўшы дзверы і схаваўшы свой ключ у кішэню, Апейка выходзіў на знаёмую вуліцу.* Мележ. *Добра яшчэ, калі побач былі сябры, якія ведалі яго [Сушчэню] і маглі абараніць ад крыўды, Калі ж ні сяброў, ні сведак не было паблізу, ён мусіў трываць усё сам-насам.* Быкаў. *Усе ў Цітве ведалі, што Марцінаў Уладзік, калі заставаўся сам-насам, размаўляў з птушкамі і дрэвамі, з травамі і кветкамі, а дома на печы — з катом Базылём.* Шушкевіч.

**4**. *з чым.* Зусім адзін, у адзіночку (заставацца, пабыць з чым-н. і пад.). **Сін**.: адзін на адзін (у 3 знач.). У *мяне нібы адняло мову: я прыйшоў так недарэчы, уварваўся ў святыню гэтага чалавека, які хоча хоць гадзіну пабыць сам-насам са сваімі думкамі.* Дамашэвіч. *Мужчыны пайшлі [на фронт], і вёска засталася сам-насам з усімі чуткамі і трывогамі.* Паўлаў. *Майстар пайшоў. А я застаўся сам-*

*насам са сваімі горкімі думкамі.* Стадольнік.

**С`АМ-Н`АСАМ З САБ`ОЙ.** *Акал. Разм.* На адзіноце, адзін (заставацца, быць і пад.). **Сін**.: сам з сабой (у 1 знач.); сам-насам (у 3 знач.). *Не капа снапоў — гадоў капа. І з сабой застаўшыся сам-насам, адкажы, знайшоў ты, што шукаў? Ці заўсёды паспяваў за часам?* Звонак. *Такія часіны душэўнай сабранасці, роздуму сам-насам з сабою Пятро Глебка вельмі любіў і даражыў імі.* Вітка. *Неяк падумалася, мо гэтым людзям бывае сорамна, калі яны застаюцца сам-насам з сабой? Ці нават страшна?* «ЛіМ».

**С`АМ НЕ Ў САБ`Е.** *М. і ж. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, часцей у спалучэнні з дзеясл. *быць, хадзіць, ісці* і пад. Моцна ўсхваляваны, у стане разгубленасці, душэўнай нераўнавагі, роспачы. **Сін**.: не ў сабе; як пад зямлёй; <як> сам не свой; як у ваду апушчаны; як цень (у 2 знач.). *Ходзіць чалавек сам не ў сабе, а вокам зірне на цябе — уцякай падалей — заб'е позіркам.* Лынькоў. *Няслаўскі сам не ў сабе пайшоў следам за ёю [маці].* Мурашка. *[Галіна Паўлаўна:] Я тады з вялікага гора была сама не ў сабе.* Крапіва.

**С`АМ САБ`Е ГАЛАВ`А.** *Мн. не ўжыв. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Самастойны, незалежны ні ад каго чалавек. **Сін**.: сам сабе гаспадар. *Добра табе, халасцяку, ні кала ні двара, сам сабе галава. А тут — чацвёра ў доме, і малыя!* Быкаў. *Ніхто яму не ўкажа, як бавіць вольны час, як траціць грошы. Ён сам сабе галава!..* Міське.

**С`АМ САБ`Е ГАСПАД`АР (П`АН).** *Часцей у адз. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Самастойны, незалежны ні ад каго чалавек. Пра мужчыну. **Сін**.: сам сабе галава. *Пагляджу я на Жагулу — добра жыве чалавек. Сам сабе гаспадар, ніхто яму нё перашкаджае. Сядзіба ў яго рай зямны.* Крапіва. *За зіму Адась вокны і дубэльты зробіць, дык увесну маладыя могуць ісці ў свой дом! Могуць быць самі сабе гаспадары!* Далідовіч. *Няхай дзед сабе сярдуе: я яму цяпер не служка — сам сабе хачу быць панам, разлучыцца ўжо пара нам.* Колас. *Ну што, га? От што значыць машына! Цяпер я сам сабе пан!* Чарнышэвіч.

**<САМ> ЧОРТ ГАЛАВУ СКРУЦІЦЬ** *<дзе, у чым>*. Гл. чорт

**<САМ> ЧОРТ НАГУ ЗЛОМІЦЬ** *<дзе, у чым>*. Гл. чорт.

**САМ ЧОРТ НЕ БРАТ** *каму*. Гл. чорт.

**САМ ЧОРТ НЕ РАЗБЯРЭ.** Гл. чорт.

**<ЯК> С`АМ НЕ СВ`ОЙ.** *М. і ж. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, часцей у спалучэнні з дзеясл. *быць, хадзіць, ісці, сядзець* і пад. Моцна ўсхваляваны, у стане разгубленасці, роспачы,

адчаю. **Сін**.: не ў сабе; сам не ў сабе; як не свой; як пад зямлёй; як у ваду апушчаны; як цень (у 2 знач.). *Парфен як сам не свой патупаў па двары, зазірнуў ва ўсе куткі, увайшоў у хату, заўважыў вырванае акно і, сумеўшыся, пастаяў перад ім.* Чорны. *Разварушаны агульнай весялосцю, як сам не свой снаваў ён [Васіль] між людзей, міжволі чакаючы ўбачыць Ганну.* Мележ. *Чаго ты нешта як сама не свая?* Лобан. *[Поля] згарала ад гэтых утаропленых на яе позіркаў, сядзела скаваная, збянтэжаная, як сама не свая.* Арочка. *Бедная Гэлінька, яна была тады сама не свая...* Гартны. *Пакуль перакідваліся словамі Каплан з Лейкам, Кастусь Шкробат сядзеў сам не свой.* Галавач. *Я заўсёды быў сам не свой, калі вас сустракаў.* Дамашэвіч. *[Надзея:] На Валодзьку на нашага глядзець — проста сэрца баліць. Нейкі сам не свой. Месца сабе не знаходзіць.* Макаёнак.

*САМА* ● **САМА БОЛЬШАЕ.** Гл. большае.

**САМА МЕНЕЙ.** Гл. меней.

**САМ`А САБ`Е ГАСПАД`ЫНЯ (П`АНІ).** *Часцей адз. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Самастойная, незалежная ні ад каго жанчына. — *Раз ужо апекавацъ над ёй недзе ўзяўся, то пракарміць мог таксама. У цябе ж, здаецца, ратоў не багата. — А яна сама сабе гаспадыня!* Чыгрынаў. *Марыля.. вось жа ні замуж другі раз не пайшла, хоць і знаходзіліся ахвотнікі, ні ў калгас дасюль не запісалася... «Прывыкла сама сабе гаспадыняй быць!» — вось і паспрабуй гаварыць з ёю.* Васілевіч. *А то ж, пакуль яшчэ трохі здаровіцца, я сама сабе пані.* Брыль.

*САМАВАР* ● *Расхадзіцца (разыйсціся)* **ЯК (ШТО) ХАЛ`ОДНЫ САМАВ`АР.** *Акал. Разм. Іран.* Вельмі моцна. *Ды стой ты. Расхадзіўся як халодны самавар.* Левановіч. — *Цішэй, цішэй, Ягоравіч, — спыніў яго Клімец. — Бачыце, як вы разышліся. Што халодны самавар...* Радкевіч. *Залоза лісліва захіхікаў: – Ну, разышлася як халодны самавар... Я пажартаваў. Жарты перастала разумець?* Шамякін.

*САМАГА* ● **АД <САМАГА> СЭРЦА.** Гл. сэрца.

**ДА <САМАГА> ДНА.** Гл. дна.

*САМАЕ* ● **ПА САМАЕ ГОДЗЕ.** Гл. годзе.

**ПА <САМАЕ> ГОРЛА.** Гл. горла.

**ПА САМАЕ НЕЛЬГА.** Гл. нельга.

**ПА САМАЕ НЕ ХАЧУ.** Гл. хачу.

**<САМАЕ> БАЛЮЧАЕ МЕСЦА.** Гл. месца.

*САМАЙ* ● **НА САМАЙ СПРАВЕ.** Гл. справе.

**У <САМАЙ> СІЛЕ.** Гл. сіле.

*САМІ* ● **С`АМІ З ВУС`АМІ.** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці пры дзейн.-займ. *мы, усе.* Не горшыя за іншых. **Сін**.: не левай нагой смаркацца; не лыкам шыты. **Ант**.: у бога цяля ўкраў. *[Рунец:] Мы тут калектыўна кіруем, так што ўсе самі з вусамі.* Крапіва. *Мы самі з вусамі, Сцяпан Пятровіч, і тваёй дэмакратыі прызнаваць не маем намеру.* Пестрак. *[Ермакоў:] Ды вашы танкісты, таварыт Дораш, самі з вусамі, аказваецца. Хто там з вас здагадаўся з танка дот зрабіць?* Губарэвіч. *Суботка зразумеў Гаварушкаву іронію — газеты чытаем, самі з вусамі.* Лобан.

*САМІМ* ● **САМІМ САБОЙ.** Гл. сабой.

*САМКНУЦЬ* ● **НЕ САМКНУЦЬ ВАЧЭЙ.** *Зак. да* **НЕ ЗМЫКАЦЬ ВАЧЭЙ.**

*САМО* ● **САМ`О САБ`ОЙ.** *Акал. Разм.* Асобна, незалежна ад чаго-н. (рабіць што-н.). *[Карнейчык:] Заўтра далажыш мне, што ты цалкам гатоў да выканання заказу па запчастках. План — само сабою...* Крапіва.

**САМ`О САБ`ОЙ <ЗРАЗУМ`ЕЛА, РАЗУМ`ЕЕЦЦА>.** *У знач. пабочн. сл. Функц. не зам.* Не выклікае ніякага сумнення; безумоўна. **Сін**.: вядомая рэч. *Жыў у фальварку Язэп панам і гаспадарку вёў умела. Само сабою зразумела, яго спаткалі тут пачэсна гаспадары з гасцьмі сумесна.* Колас. *—Вы спытайце Касцянка яшчэ раз, Віктар Паўлавіч. —Само сабой разумеецца, — мірна згадзіўся той.* Шамякін. *Само сабой, дадзім большыя плошчы пад цукровыя буракі і кукурузу — выручылі яны нас сёлета, што б мы і рабілі, каб не яны...* Палтаран. *[Ванштэйн:] Адпачыў, брат, што трэба. Сіняе мора, сонца, бесклапотнасць... Само сабой, адну цікавую асобу сустрэў...* Навуменка.

*САМОГА* ● **ВЫСЦЕБАЦЬ САМОГА СЯБЕ.** Гл. высцебаць.

**ЗАМЫКАННЕ САМОГА Ў САБЕ.** Гл. замыканне.

**УВАХОДЗІЦЬ У <САМОГА> СЯБЕ.** Гл. уваходзіць.

*САМОМУ* ● **ЗМАГАЦЦА САМОМУ З САБОЙ.** Гл. змагацца.

**НІ САМОМУ ПАГЛЯДЗЕЦЬ НІ ЛЮДЗЯМ ПАКАЗАЦЬ.** Гл. паглядзець.

*САМУЮ* ● **ПА <САМУЮ> ЗАВЯЗКУ.** Гл. завязку.

**ПА <САМУЮ> ШЫЮ.** Гл. шыю

*САМЫ* ● **ПАЦЭЛІЦЬ У <САМЫ> ЯБЛЫЧАК.** Гл. пацэліць.

**<У> САМЫ РАЗ.** Гл. раз.

*САМЫМ* ● **НАД <САМЫМ> ВУХАМ.** Гл. вухам.

**НА <САМЫМ> ВІДАВОКУ.** Гл. відавоку.

**ПАД <САМЫМ> НОСАМ** *у каго, чыім, каго.* Гл. носам.

**САДЗІЦЦА НА ТЫМ САМЫМ МЕСЦЫ.** Гл. садзіцца.

**У <САМЫМ> САКУ.** Гл. саку.

*САМЫЯ* ● **ПА <САМЫЯ> ВУШЫ.** Гл. вушы.

*САНІ* ● **НА ПАП`ОВЫ С`АНІ** <u>*збірацца*</u>. *Разм. Кампанент вык. пры дзейн. са знач. асобы.* Паміраць. **Сін.**: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаваць духі; адкідаць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць у вечнасць; адыходзіць у іншы свет; адыходзіць у лепшы свет; ажаніцца з <сырой> зямлёй; выпростваць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага *збірацца*; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капытоў далоў (у 2 знач.); лажыцца ў магілу; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. *Дзед ужо чуць кляваіць, на паповы сані збіраецца.* Барадулін. *У гародзе сорак гадоў бульба па бульбе – звялася. Тут можа гады два пародзіць, а там бадай што давядзецца збірацца на паповы сані.* «ЛіМ». [Параўн.: *Федароўскі*, с. 241: выхаваў *на паповы сані* – ‘смерць, скананне’; *Янкоўскі*, с. 107: *глядзець на паповы сані* – ‘*вельмі кепска пачуваць сябе (пра хворага), рыхтавацца да смерці’*.]

<u>*Пані (пан)*</u> **НА ЎС`Е С`АНІ.** *Азн. Разм. Часцей іран.* Багаты і мажны. *Не купляй мяса, а з сваёй гавяды, здаровай, маладой і тлустай, як лані, кармі сямейку, гасцей і чалядзі, дык ужо ж тады будзеш панам на ўсе сані!* Дунін-Марцінкевіч. *—Прыходзь да мяне, жыць будзеш, як пані. —Ого, пані на ўсе сані, — ужо не стрываўшы, зарагатала Хрысця. —Можа, і фаэтон купіш?* Адамчык. *—Мой бацька, які меў багата сваёй зямлі і млын, і то не здымаў з ног гумавых пасталоў з анучамі да плеч. А то бач... пані на ўсе сані. —Але, але, і я кажу, — заківала галавой Хрысця Манашка, — пані на ўсе сані.* Супрунчук.

**САДЗІЦЦА НЕ Ў СВАЕ САНІ.** Гл. садзіцца.

*САНЯХ* ● **СЯДЗЕЦЬ НЕ Ў СВАІХ САНЯХ.** Гл. сядзець.

*САПАЙ* ● **Ц`ІХАЙ С`АПАЙ.** *Акал. Разм.* Ціпком і паступова (рабіць што-н.). **Сін.**: пад сурдзінку (у 2 знач.); пад шумок. *Буртын не ад душы... З хітрасці напісаў сваю заяву... А дзе ж яго ўся маёмасць? Гэта ж, як кажуць цяпер... робіць ціхай сапай...* Грамовіч. *[Гарнец] ціхай сапай усё рабіў. Праз яго забілі дзядзьку Панаса.* Левановіч.

*САПСАВАЦЬ* ● **САПСАВ`АЦЬ <УС`Ю> АБ`ЕДНЮ** *каму. Зак.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нашкодзіць каму-н., парушыць чые-н. планы, справы, намеры. **Сін.**: даць падножку *каму*; заступіць дарогу *каму*; падставіць ножку *каму*; перабегчы дарогу *каму*; стаць на дарозе

*чыёй, каму, чаму*; стаць папярок дарогі *каму, чыёй.* **Ант.**: саступіць з дарогі (у 2 знач.); сыходзіць з дарогі. *Папрашу цябе, пабудзь яшчэ хоць сёння маладым, у дзень майго нараджэння, бо ты сваім настроем сапсуеш мне ўсю абедню.* Арабей. *Пакуль камбрыг «марудзіў», на ўчастку нашай ціхай засады здарылася невялічкая прыгода, якая, аднак, калі б не наша вытрымка, магла б сапсаваць усю абедню.* «ЛіМ».

*САПЦІ* ● **САПЦ`І Ў ДЗВ`Е ДЗ`ІРКІ.** *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Памоўчваць, змірыўшыся з чым-н. *Дырэктар, нарэшце, як пекане: «Пакуль я галоўны, гэту прапанову ўкараняць не будзем». Здавалася б, садзіся і сапі ў дзве дзіркі. А ён, гэты новаспечаны, ведаеце, што сказаў: «Вы сёння галоўны, а заўтра можаце ім і не быць. А прапанову ўкараняць трэба».* Ліпскі. *Усё нейкае праўды дашукваюцца. А навошта вам тая праўда патрэбна? Ці вам кавалка хлеба няма — жуй сабе спакойна і сапі ў свае дзве дзіркі.* Лецка.

*САРАКОЎ* ● **СОРАК САРАКОЎ** *чаго.* Гл. сорак.

*САРВАЎСЯ* ● **ЯК (Н`ІБЫ) З ЛАНЦУГ`А (З ПР`ЫВЯЗІ) САРВ`АЎСЯ (-ЛАСЯ, -ЛІСЯ).** *Зак. Разм. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Страціўшы кантроль над сабой, перастаў стрымлівацца ў дзеяннях, учынках. *[Павел Андрэевіч:] Растлумачце вы мне, што гэта толькі робіцца. Народ нібы з ланцуга сарваўся. Ні табе родны брат, ні табе родны бацька. Бога забыліся.* Галавач. *Нямецкае камандаванне нібы з ланцуга сарвалася, баіцца, каб ад нашай агітацыі салдаты не паднялі на штыкі сваіх камандзіраў.* Грахоўскі.

*САРВАЎШЫСЯ* ● **ЯК З ЛАНЦУГ`А (З ПР`ЫВЯЗІ) САРВ`АЎШЫСЯ** *ляцець, кідацца (кінуцца)* і пад. *Акал. Разм. Часцей неадабр.* Вельмі хутка, стрымгалоў. **Сін**.: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы,* без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.) з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсіх парах, на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант**.: як чарапаха. *Раптам у адчыненыя дзверы цяплушкі як з прывязі сарваўшыся шугануў нахабна вецер,*

*выпушчаны з волі неўгамонным Цыганком.* Каваль. *—Чаго ты гэтак ляціш як усё роўна з прывязі сарваўшыся? — прысуняў Цітка Кандрат.* Лобан. *Як з ланцуга сарваўшыся кінуўся з усіх ног, яшчэ не верачы ў тое, што ён чуе, з кабінета начальніка паліцыі на волю Яўхім Бабай.* Сачанка.

*САРВАЦЦА* • **САРВАЦЦА З ВУСНАЎ** *чыіх, каго. Зак. да* **ЗРЫВАЦЦА З ВУСНАЎ** *чыіх, каго.*

**САРВАЦЦА З ЯЗЫКА** *чыйго, у каго. Зак. да* **ЗРЫВАЦЦА З ЯЗЫКА** *чыйго, у каго.*

*САРВАЦЬ* • **САРВАЦЬ ГАЛАВУ** *каму.* Гл. адарваць.

**САРВ`АЦЬ З ЯЗЫК`А** *ў каго. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Апярэдзіўшы каго-н., сказаць тое, што хацеў выказаць іншы. *—Праўду, Іван, гаворыш. З языка ў мяне амаль сарваў, — падтрымлівае гаворку дзядзька Зміцер.* Паўлаў. *—Правільна, харошы тост! — Я хацеў, з языка ў мяне сарваў...* Місько.

**САРВАЦЬ МАСКУ** *з каго. Зак. да* **ЗРЫВАЦЬ МАСКУ** *з каго.*

*САРВІ* • **САРВ`І (УРВ`І) ДЫ ПАД`АЙ.** *Толькі ў заг. л. Часцей вык. ці азн. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. *Звычайна адабр.* Надта вёрткі, спрытны, жвавы. **Сін**.: адарві ды падай. *Падумаць толькі, — хлопцы ў мяне, як той казаў, толькі сарві ды падай, што арлы, а тут нейкая «дзявочая брыгада».* Брыль. *Брыгадзірамі прызначаны мужчыны ў самай сіле – урві ды падай...* ДуброўскІ.

**2**. *Неадабр.* Пранырлівы, такі, што нічога не баіцца, ні перад чым не спыняецца. *І натура: сарві ды падай. Дзе якія бойкі, гульбішчы, дзеўкі – там Анкуда, кулакі ды морду вытыркне.* Карамазаў. *Каб чалавек другое натуры, маючы гэтакую машыну ў руках, то нажыўся б. Але Венік быў не з тых, што ўрві ды падай.* А.Жук.

*САРОЧКА* • **НЯХ`АЙ (Х`АЙ) САР`ОЧКА НЕ ЧАП`АЕ** *каго. Выкл. Праст.* Выказванне абурэння і пажадання самага найгоршага каму-н. **Сін**.: каб зямля не насіла *каго. Архіп і яго сябры клікалі мужчын у маёнтак біць пана і Дракулу. —Няхай іх, хлопчыкі, сарочка не чапае! — сказаў Ахрэм.* Якімовіч. *У хаце ён цяпер не спіць, хай яго сарочка не чапае, гэтага дурня.* Навуменка. *На ліха ты мне здаўся. Я цябе не чапаў і не чапаю. Хай цябе сарочка не чапае.* Сачанка.

*САРОЧЦЫ* • **НАРАДЗІЦЦА Ў САРОЧЦЫ.** Гл. нарадзіцца.

*САСОНЦЫ* • **З БОРУ ПА САСОНЦЫ.** Гл. бору.

*САСТУПАЦЬ* • **САСТУП`АЦЬ З ДАР`ОГІ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. *каму.* Ісці на ўступкі, згаджаючыся з чыімі-н. патрабаваннямі, пажаданнямі. *[Суседзі] трымаліся думкі, што гаспадар не мае права біць сваіх слуг... —Ха! Дык, па-вашаму,*

*трэба саступаць з дарогі кожнаму хаму?* Самуйлёнак. **САСТУПІЦЬ З ДАРОГІ.** *Зак. —А яшчэ патрабуем мы, гаспадар, каб ты памог грашыма старому. Не павінен паміраць ён з голаду... Няма чаго крывіцца!.. — закрычалі рабочыя. Убачыў Зусь, што нічога не выйдзе, прыйдзецца саступіць з дарогі.* Мурашка.

**2**. Перастаўшы перашкаджаць, даваць магчымасць дзейнічаць іншым. **Сін**.: сыходзіць з дарогі. **Ант**.: даваць падножку *каму*; заступаць дарогу *каму*; падстаўляць ножку *каму*; перабягаць дарогу *каму*; псаваць абедню *каму*; ставіць падножку *каму*; ставіць палкі ў кола *каму, чаго*; станавіцца на дарозе *чыёй, каму, чаму*; станавіцца папярок дарогі *каму, чыёй*; стаяць на дарозе *чыёй, у каго*; стаяць папярок дарогі *каму, каго.* **САСТУПІЦЬ З ДАРОГІ.** *Зак. П’есы расказваюць.. і аб людзях адсталых.., якія з’яўляюцца перашкодай пераможнаму поступу наперад і таму павінны або саступіць з дарогі, або далучыцца да людзей перадавых.* Крапіва.

**САСТУП`АЦЬ (УСТУП`АЦЬ) М`ЕСЦА** *чаму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. ці канкр. прадмета. Змяняцца, замяняцца чым-н. іншым. *Хмуры асенні дзень саступаў месца шумнаму гарадскому вечару.* Колас. *[Дробнаўласніцкая псіхалогія Пракопа Дубягі] толькі пад напорам неабвержных фактаў і яскравых доказаў уступае месца новым поглядам і настроям.* Крапіва. **САСТУПІЦЬ (УСТУПІЦЬ) МЕСЦА** *чаму. Зак. Хаты старога мястэчка саступілі месца дамам і дамкам новага мястэчка.* Чорны. *Парослая травой, яна [дарога] неяк адразу ўступіла месца пясчаным россыпам, якія не паспеў нават схапіць трыліснік.* Асіпенка.

*САСТУПІЦЬ* ● **САСТУПІЦЬ З ДАРОГІ.** *Зак. да* **САСТУПАЦЬ З ДАРОГІ.**
**САСТУПІЦЬ МЕСЦА** *чаму. Зак. да* **САСТУПАЦЬ МЕСЦА** *чаму.*

*САЎЛАДАЦЬ* ● **САЎЛАД`АЦЬ З САБ`ОЙ.** *Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Справіўшыся са сваімі пачуццямі, настроем і пад., вярнуць поўнае самавалоданне. **Сін**.: авалодваць сабой; браць сябе ў рукі (у 1 знач.). *Нехаця ўзяўся ён [Бушмар] за работу на дварэ, чуючы сябе чужым усяму і ўсім нават тут. Ён і не спрабаваў саўладаць з сабою.* Чорны. *Сотнікаў пакрысе саўладаў з сабою, пачаў аддыхвацца і спакайнець.* Быкаў. *Брава-Жыватоўскі на нейкі момант збянтэжыўся, але саўладаў з сабой.* Чыгрынаў.

*САЧАВІЧНУЮ* ● **ЗА САЧАВІЧНУЮ ПОЛІЎКУ.** Гл. поліўку.

*САЧКА* ● **САЧКА ДАВІЦЬ.** Гл. давіць.

*СВАБОДНА* ● **ДЫХАЦЬ СВАБОДНА.** Гл. дыхаць.

**УЗДЫХНУЦЬ СВАБОДНА.** Гл. уздыхнуць.
*СВАБОДНАЕ* ● **СВАБОДНАЕ ПЛАВАННЕ.** Гл. плаванне.
*СВАЕ* ● **АСУШВАЦЬ СВАЕ СЛЁЗЫ.** Гл. асушваць.
**БРАЦЬ ЛЕЙЦЫ Ў <СВАЕ> РУКІ.** Гл. браць.
**БРАЦЬ <СВАЕ> ВОЧЫ Ў ЖМЕНЮ.** Гл. браць.
**БРАЦЬ <СВАЕ> СЛОВЫ НАЗАД.** Гл. браць.
**БРАЦЬ У <СВАЕ> РУКІ.** Гл. браць.
**ВЫКЛАДВАЦЬ <СВАЕ> КАРТЫ <НА СТОЛ>.** Гл. выкладваць.
**ВЯРНУЦЬ НАЗАД <СВАЕ> СЛОВЫ.** Гл. вярнуць.
**ЗДАВАЦЬ <СВАЕ> ПАЗІЦЫІ.** Гл. здаваць.
**ЗЛАЖЫЦЬ <СВАЕ> КОСЦІ** *дзе.* Гл. злажыць.
**КУДЫ ДЗЕЦЬ <СВАЕ> РУКІ.** Гл. дзець.
**ЛАМАЦЬ <СВАЕ> РУКІ.** Гл. ламаць.
**НА КРУГІ СВАЕ.** Гл. кругі.
**НА СВАЕ ВУШЫ.** Гл. вушы.
**НА СВАЕ <УЛАСНЫЯ> ВОЧЫ.** Гл. вочы.
**ПАЛІЦЬ СВАЕ КАРАБЛІ.** Гл. паліць.
**САДЗІЦЦА НЕ Ў СВАЕ САНІ.** Гл. садзіцца.
**СА СВАЕ ГАЛАВЫ.** Гл. галавы.
**УБІРАЦЬ У <СВАЕ> РУКІ.** Гл. убіраць.
**УВАХОДЗІЦЬ У <СВАЕ> БЕРАГІ.** Гл. уваходзіць.
**УЗВАЛЬВАЦЬ НА СВАЕ ПЛЕЧЫ** *што.* Гл. узвальваць.
**УСТАЎЛЯЦЬ СВАЕ ТРЫ ГРОШЫ.** Гл. устаўляць.
**ЯК СВАЕ ВУШЫ.** Гл. вушы.
**ЯК СВАЕ ПЯЦЬ ПАЛЬЦАЎ.** Гл. пальцаў.
*СВАЁ* ● **АБУЦЬ <СВАЁ> СЭРЦА Ў ЛАПЦІ.** Гл. абуць.
**АДКРЫВАЦЬ <СВАЁ> СЭРЦА** *каму, перад кім.* Гл. адкрываць.
**БРАЦЬ СВАЁ.** Гл. браць.
**ВЕДАЦЬ СВАЁ МЕСЦА.** Гл. ведаць.
**ВІЦЬ <СВАЁ> ГНЯЗДО.** Гл. віць.
**ПАКАЗВАЦЬ СВАЁ.** Гл. паказваць.
**ПАСТАВІЦЬ НА <СВАЁ> МЕСЦА** *каго.* Гл. паставіць.
**СВАЁ ПРАВА ПРАВІЦЬ.** Гл. правіць.
**СКАЗАЦЬ СВАЁ СЛОВА.** Гл. сказаць.
**СОВАЦЬ НОСА НЕ Ў СВАЁ ПРОСА.** Гл. соваць.
**СТАВІЦЬ УСЁ НА <СВАЁ> МЕСЦА.** Гл. ставіць.
**СТАНАВІЦЦА НА <СВАЁ> МЕСЦА.** Гл. станавіцца.
**ТРЫМАЦЬ <СВАЁ> СЛОВА.** Гл. трымаць.
**УВАХОДЗІЦЬ У <СВАЁ> РЭЧЫШЧА.** Гл. уваходзіць.
**ЦЯГНУЦЬ ВАДУ НА СВАЁ КОЛА.** Гл. цягнуць.
**ЯК <СВАЁ> ВОКА** *глядзець* і пад. Гл. вока.

*СВАЁЙ* ● **БАЧЫЦЬ СА СВАЁЙ ЗВАНІЦЫ** *што.* Гл. бачыць.

**ГЛЯДЗЕЦЬ СА СВАЁЙ ЗВАНІЦЫ** *на каго, на што.* Гл. глядзець.

**ЗАМЫКАННЕ Ў СВАЁЙ ШКАРЛУПІНЕ.** Гл. замыканне.

**ІСЦІ СВАЁЙ ДАРОГАЙ.** Гл. ісці.

**НА СВАЁЙ СКУРЫ.** Гл. скуры.

**НЕ Ў СВАЁЙ ТАЛЕРЦЫ.** Гл. талерцы.

*СВАІМ* ● **ВАРЫЦЦА Ў СВАІМ САКУ.** Гл. варыцца.

**ЖЫЦЬ СВАІМ РОЗУМАМ.** Гл. жыць.

**ЛЕЗЦІ СА СВАІМ СТАТУТАМ У ЧУЖЫ МАНАСТЫР.** Гл. лезці.

**НА СВАІМ МЕСЦЫ.** Гл. месцы.

**НЕ ВЕРЫЦЬ <СВАІМ> ВАЧАМ.** Гл. верыць.

**НЕ ВЕРЫЦЬ <СВАІМ> ВУШАМ.** Гл. верыць.

**НЕ ДАВАЦЬ ВЕРЫ <СВАІМ> ВАЧАМ.** Гл. даваць.

**НЕ ДАВАЦЬ ВЕРЫ <СВАІМ> ВУШАМ.** Гл. даваць.

**НЕ СВАІМ ГОЛАСАМ.** Гл. голасам.

**НЕ Ў СВАІМ РОЗУМЕ.** Гл. розуме.

**ПРЫ СВАІМ РОЗУМЕ.** Гл. розуме.

**СВАІМ АДУМАМ.** Гл. адумам.

**СВАІМ ГАРБОМ.** Гл. гарбом.

**СВАІМ МАЗАЛЁМ.** Гл. мазалём.

**СВАІМ ПАРАДКАМ.** Гл. парадкам.

**СВАІМ ХОДАМ.** Гл. ходам.

**СТАВІЦЬ НА СВАІМ.** Гл. ставіць.

**СТАЯЦЬ НА СВАІМ.** Гл. стаяць.

**У СВАІМ РОДЗЕ.** Гл. родзе.

**УТЫКАЦЦА СА СВАІМ ЯЗЫКОМ.** Гл. утыкацца.

*СВАІМІ* ● **НАЗЫВАЦЬ РЭЧЫ СВАІМІ ІМЁНАМІ.** Гл. называць.

**СВАІМІ ВАЧАМІ.** Гл. вачамі.

**СВАІМІ ВУШАМІ.** Гл. вушамі.

**СВАІМІ РУКАМІ.** Гл. рукамі.

**СВАІМІ СЛОВАМІ.** Гл. словамі.

**НЕ СВАІМІ НАГАМІ.** Гл. нагамі.

*СВАІХ* ● **АБТРЭСЦІ ПРАХ** *чый, каго, чаго* **З НОГ <СВАІХ>.** Гл. абтрэсці.

**ВЫНОСІЦЬ НА СВАІХ ПЛЯЧАХ** *што.* Гл. выносіць.

**ВЫПУСКАЦЬ З <СВАІХ> РУК.** Гл. выпускаць.

**ВЫПУСКАЦЬ ЛЕЙЦЫ З <СВАІХ> РУК.** Гл. выпускаць.

**ГРЭЦЬ ЗМЯЮ НА СВАІХ ГРУДЗЯХ.** Гл. грэць.

**<І> СВАІХ НЕ ПАЗНАЕШ.** Гл. пазнаеш.

**НА СВАІХ ДВАІХ.** Гл. дваіх.

**ПАКАЗАЦЬ ЯК БАРСУК <СВАІХ> ДЗЯЦЕЙ ГЛАДЗІЦЬ** *каму.* Гл.

паказаць.

*Заставацца (застацца)* **ПРЫ СВА`ІХ.** *Акал. Разм.* З тым, што было, нічога не страціўшы і не набыўшы. **Сін.**: пры сваіх інтарэсах. *[Насця:] Я-то не прамяняю свайго [калгаса] на ваш. [Пытляваны:] Ну, што ж, не мяняеце — і не трэба. Застанёмся пры сваіх.* Крапіва.

**ПРЫ СВАІХ ІНТАРЭСАХ.** Гл. інтарэсах.

**СЯДЗЕЦЬ НЕ Ў СВАІХ САНЯХ.** Гл. сядзець.

**ТРЫМАЦЬ ЛЕЙЦЫ <У СВАІХ РУКАХ>.** Гл. трымаць.

**ТРЫМАЦЬ НА <СВАІХ> ПЛЯЧАХ.** Гл. трымаць.

**ЯК СВАІХ ВУШЭЙ.** Гл. вушэй.

*СВАЙГО* ● **БАЯЦЦА СВАЙГО ЦЕНЮ.** Гл. баяцца.

**ВЫРЫВАЦЬ З <СВАЙГО> СЭРЦА** *каго, што.* Гл. вырываць.

**ГАСПАДАР СВАЙГО СЛОВА.** Гл. гаспадар.

**ЗЛАЗІЦЬ СА СВАЙГО КАНЬКА.** Гл. злазіць.

**НЕ БАЧЫЦЬ ДАЛЕЙ <СВАЙГО> НОСА.** Гл. бачыць.

**САДЗІЦЦА НА СВАЙГО <ЛЮБІМАГА> КАНЬКА.** Гл. садзіцца.

**СВАЙГО РОДУ.** Гл. роду.

**СТАЯЦЬ НАПРОЦІ СВАЙГО ВЕКУ.** Гл. стаяць.

**У ПОЦЕ ТВАРУ СВАЙГО.** Гл. поце.

*СВАЙМУ* ● **ДАВАЦЬ ВОЛЮ <СВАЙМУ> СЭРЦУ.** Гл. даваць.

*СВАТ* ● **КУМ КАРАЛЮ <І СВАТ МІНІСТРУ>.** Гл. кум.

**НІ СВ`АТ НІ БР`АТ** *каму. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зусім чужы чалавек, ніякі не сваяк, не родны. *Я, васпане, за яго вельмі не абстайваю, але... Што мне ён — ні сват ні брат...* Чорны. *Іван ёй ні сват ні брат. Ніякага права на яе спадчыну не мае.* Машара. *Не трэба! Ён ёй ні сват ні брат. І яна яго раднёй ніколі не была.* Паўлаў.

*СВАТА* ● *Няма (не было)* **НІ СВ`АТА НІ БР`АТА.** *Дап. Разм.* (Няма ў каго-н.) прыбліжаных, блізкіх асоб, для якіх бы рабілася патуранне, выключэнне. Пра дбайнага, прынцыповага чалавека. *[Бонда:] Калі датычыць справы, дык у яго няма ні свата ні брата. Такі ён чалавек.* Гурскі. *Ні ў бліжэйшай вёсцы, Некрашах, ні ва ўсёй ваколіцы ў яго не было ні брата ні свата. Кожны, хто ні ступаў нагой у лес, рабіўся яго ворагам.* Лобан.

*СВАЮ* ● **АДКРЫВАЦЬ <СВАЮ> ДУШУ** *каму, перад кім.* Гл. адкрываць.

**БРАЦЬ ГРЭХ НА <СВАЮ> ДУШУ.** Гл. браць.

**ВЫБІВАЦЦА НА <СВАЮ> ДАРОГУ.** Гл. выбівацца.

**ВЫВАРОЧВАЦЬ <СВАЮ> ДУШУ** *перад кім.* Гл. выварочваць.

**ВЫКЛАДАЦЬ <СВАЮ> ДУШУ** *каму, перад кім.* Гл. выкладаць.

**ГНУЦЬ СВАЮ ЛІНІЮ.** Гл. гнуць.
**ГНУЦЬ <СВАЮ> СПІНУ.** Гл. гнуць.
**ГНУЦЬ <СВАЮ> СПІНУ** *перад кім.* Гл. гнуць.
**ЗАВЕСЦІ СВАЮ КАТРЫНКУ.** Гл. завесці.
**ЗАВЕСЦІ СВАЮ ШАРМАНКУ.** Гл. завесці.
**ЗАМЫКАЦЦА Ў СВАЮ РАКАВІНУ.** Гл. замыкацца.
**КЛАСЦІ Ў СВАЮ КІШЭНЬ** *што.* Гл. класці.
**МЕЦЬ <СВАЮ> ГАЛАВУ НА ПЛЯЧАХ.** Гл. мець.
**НАБІВАЦЬ <СВАЮ> КІШЭНЬ.** Гл. набіваць
**НА СВАЮ ГАЛАВУ.** Гл. галаву.
**НА СВАЮ РУКУ.** Гл. руку.
**ПАДСТАЎЛЯЦЬ <СВАЮ> ГАЛАВУ.** Гл. падстаўляць.
**ПАДСТАЎЛЯЦЬ <СВАЮ> ГАЛАВУ ПАД АБУХ.** Гл. падстаўляць.
**УВАХОДЗІЦЬ У <СВАЮ> КАЛЯІНУ.** Гл. уваходзіць.
**У СВАЮ ЧАРГУ.** Гл. чаргу.
**ШУКАЦЬ ГУЗА НА СВАЮ ГАЛАВУ.** Гл. шукаць.

*СВАЯ* ● **<ЁСЦЬ> <СВАЯ> ГАЛАВА НА ПЛЯЧАХ** *у каго.* Гл. галава.
**СВАЯ ВОШ УКУСІЦЬ** *каго.* Гл. вош.
**СВАЯ КРОЎ.** Гл. кроў.
**СВАЯ РУКА** *ў каго дзе.* Гл. рука.
**СВАЯ СЯСТРА.** Гл. сястра.

*СВЕДКА* ● **БОГ СВЕДКА.** Гл. бог.

*СВЕЖАЕ* ● **НА СВЕЖАЕ ВОКА.** Гл. вока.
**НА <СВЕЖАЕ> ПАВЕТРА.** Гл. паветра.
**СВЕЖАЕ ВОКА.** Гл. вока.

*СВЕЖАЙ* ● **ПА СВЕЖАЙ ПАМЯЦІ.** Гл. памяці.

*СВЕЖАСЦІ* ● **НЕ П`ЕРШАЙ СВ`ЕЖАСЦІ.** *Азн. і вык. Функц. не зам.* Падношаны ці не вельмі чысты. Пра адзенне. *І Пацеркаў капялюш быў не першай свежасці, а гэты, хоць таксама сіні, але зусім выцвілы, у сярэдзіне нават зашмальцаваны.* Аношкін. *Санітарка неахвотна паплыла за бар'ерчык, моўчкі падала не першай свежасці халат.* Блакіт.

*СВЕЖУЮ* ● **АДКРЫВАЦЬ СВЕЖУЮ СТАРОНКУ** *ў чым.* Гл. адкрываць.
**НА СВЕЖУЮ ГАЛАВУ.** Гл. галаву.
**СЫПАНУЦЬ СОЛІ НА СВЕЖУЮ РАНУ.** Гл. сыпануць.
**СЫПАЦЬ СОЛЬ НА <СВЕЖУЮ> РАНУ.** Гл. сыпаць.

*СВЕЖЫМ* ● **НА СВЕЖЫМ ПАВЕТРЫ.** Гл. паветры.

*СВЕЖЫХ* ● **ПА СВЕЖЫХ СЛЯДАХ** <*чаго*>. Гл. слядах.

*СВЕТ* ● **АДКРЫЦЬ СВЕТ** *каму.* Гл. адкрыць.
**АДПРАЎЛЯЦЦА НА ТОЙ СВЕТ.** Гл. адпраўляцца.

**АДПРАЎЛЯЦЬ НА ТОЙ СВЕТ** *каго.* Гл. адпраўляць.

**АДЧЫНІЦЬ АКНО Ў СВЕТ** <*які*> *каму.* Гл. адчыняць.

**АДЫХОДЗІЦЬ НА ТОЙ СВЕТ.** Гл. адыходзіць.

**АДЫХОДЗІЦЬ У ІНШЫ СВЕТ.** Гл. адыходзіць.

**АДЫХОДЗІЦЬ У ЛЕПШЫ СВЕТ.** Гл. адыходзіць.

**АДЫХОД У ІНШЫ СВЕТ.** Гл. адыход.

**АДЫХОД У ЛЕПШЫ СВЕТ.** Гл. адыход.

**Б`ЕЛЫ СВ`ЕТ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Навакольная рэчаіснасць — сусвет, зямля, з усім, што на ёй існуе; жыццё ва ўсіх яго праявах. **Сін**.: божы свет. *Усё пакінуць след павінна, бо, як пачаўся белы свет, прамень, пясчынка і расінка нязменна пакідаюць след.* Броўка. *Шчаслівы то быў куточак белага свету.* Колас. *Каторы год гляджу на белы свет, а ўсё ніяк не нагляджуся.* Брыль. *Шмат навін у белым свеце...* Крапіва.

**БЛ`ІЗКІ (НЕ БЛ`ІЗКІ) СВ`ЕТ.** *Акал. Разм.* Гэтак далёка (знаходзіцца дзе-н., ісці, ехаць, везці і пад. у якім-н. кірунку). **Сін**.: за дзесятай гарой; за светам; за трыдзевяць зямель; на краі свету; у віру на калу; у чортавых зубах; у чорта на кулічках; у чорта на рагах; у чорта ў зубах. *От калі я калісьці спаткаўся быў з Весялоўскім і Гімпалевічам у лесе, чорт ведае дзе, блізкі свет адсюль...* Чорны. *Блізкі свет, а от бачыце, сама прытупала і ні разу не аддыхнула.* Грахоўскі. *Паедзем. Толькі калі ж гэта дацягнемся? Не блізкі свет!* Савіцкі. *Мама яшчэ ў Ельнік хадзіла! Гэта ж не блізкі свет...* Гіль.

**Б`ОЖЫ СВ`ЕТ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Навакольная рэчаіснасць — сусвет, зямля з усім, што на ёй існуе; жыццё ва ўсіх яго праявах. **Сін**.: белы свет. *І божы свет здаваўся мілы.* Колас. *Дзяўчына прыгожая, хлопец прыгожы, — вось пара ўжо сэрцаў, вось пара людзей, што могуць забыцца на ўсё, на свет божы, як кроў маладая заходзіць жывей.* Купала.

**ВЫВОДЗІЦЬ НА БЕЛЫ СВЕТ** *каго, што.* Гл. выводзіць.

**ВЫВОДЗІЦЬ У СВЕТ** *каго.* Гл. выводзіць.

**ВЫПУСКАЦЬ У СВЕТ** *каго.* Гл. выпускаць.

**ВЫХАД У СВЕТ** *чаго.* Гл. выхад.

**ВЫХОДЗІЦЬ У СВЕТ.** Гл. выходзіць.

**ГЛЯДЗЕЦЬ НА ТОЙ СВЕТ.** Гл. глядзець.

**Г`ЭТЫ СВ`ЕТ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Навакольная рэчаіснасць; зямное жыццё як супрацьпастаўленне замагільнаму жыццю. **Ант**.: той свет. *Я не зайздрошчу тым з вас, браццi, каго спрадвечныя закляцці не парушалі, не тамілі і цяжкім каменем не білі і для каго ўвесь гэты свет ёсць аднае цялежкі*

*след...* Колас. *[Паўліна:] Каб вас з гэтага свету спаласавала, як вы нашу гаспадарку дашчэнту спаласавалі!* Крапіва. *Дзянісава маці тады жыла ўжо ці не апошні год на гэтым свеце...* Чыгрынаў.

**ДАЙ ТЫ СВЕТ** <*каму*>. Гл. дай.

**ЗА БЛ`ІЗКІ СВ`ЕТ.** *Акал. Разм.* Вельмі далёка (накіроўвацца куды-н.). **Сін**.: дзе макар козы пасе (у 1 знач.); за дзесятую гару; за свет; за свет вочы; куды крумкач касцей не заносіў; куды макар цялят не ганяў (у 1 знач.); к чорту на рогі; на край свету (у 1 знач.). *[Мацвею] і самому паказалася страшна, ні разу не быўшы нідзе, ехаць за блізкі свет, яшчэ добра не ведаючы, чаго шукаць.* Лобан. — *Дзе ж Алевіч? —Не захацеў. Кажа, чаго я пацягнуся за блізкі свет.* Калюга.

**ЗАВЯЗВАЦЬ САБЕ СВЕТ.** Гл. завязваць.

**ЗАВЯЗВАЦЬ СВЕТ** *каму.* Гл. завязваць.

**ЗАГАНЯЦЬ НА ТОЙ СВЕТ** *каго.* Гл. заганяць.

**ЗА СВ`ЕТ** *<u>ісці, ехаць</u>* і пад. *Акал. Разм.* Вельмі далёка. **Сін**.: дзе макар козы пасе (у 1 знач.); за блізкі свет; за дзесятую гару; за свет вочы; куды крумкач касцей не заносіў; куды макар цялят не ганяў (у 1 знач,); к чорту на рогі; на край свету (у 1 знач.). *Куды ты, Мар'я, пойдзеш?.. Хіба жартачкі за свет ісці.* Сабаленка. *Глядзіць [мама], як бягуць па пасёлку першакласнікі з букецікамі кветак, і думае пра сваю дачушку, што паехала за свет у далёкую невядомую Сібір.* Грахоўскі. *Цётка пайшла замуж «за свет», як кажуць дома, і жыве недзе пад горадам Бабруйскам.* Васілевіч.

**ЗА СВ`ЕТ В`ОЧЫ** *<u>ісці, ехаць</u>* і пад. *Акал. Разм.* Вельмі далёка. **Сін**.: дзе макар козы пасе (у 1 знач.); за блізкі свет; за дзесятую гару; за свет; куды крумкач касцей не заносіў; куды макар цялят не ганяў (у 1 знач.); к чорту на рогі; на край свету (у 1 знач.). *І зноў уявілася, што і адгэтуль, з чароўнай Саксонскай Швейцарыі, людзі хадзілі далёка, «за свет вочы», паліць старых і дзяцей у якім-небудзь большым ці меншым Асвенціме, большай ці меншай Хатыні, у нашым наднёманскім Новым Сяле...* Брыль.

**ЗАСЛАНЯЦЬ <УВЕСЬ> СВЕТ** *каму.* Гл. засланяць.

**ЗАСЦІЦЬ СВЕТ** *каму.* Гл. засціць.

**З'ЯЎЛЕННЕ НА СВЕТ.** Гл. з'яўленне.

**З'ЯЎЛЯЦЦА НА СВЕТ.** Гл. з'яўляцца.

**КАПЦІЦЬ СВЕТ.** Гл. капціць.

**НА ЎВ`ЕСЬ СВ`ЕТ.** *Акал. Разм.* **1**. Вельмі гучна, галасна, моцна (крычаць, галёкаць і пад.). **Сін**.: благім матам; з усіх жыл (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 3 знач.); на поўную сілу (у 3 знач.); на поўныя грудзі (у 2 знач.); на ўвесь голас (у 1 знач.); на ўсе грудзі (у 2 знач.);

на ўсе застаўкі (у 1 знач.); на ўсё горла; на ўсю глотку; на ўсю іванаўскую (у 1 знач.); на ўсю моц (у 3 знач.); немым голасам; не сваім голасам; што ёсць духу (у 2 знач.); што ёсць сілы (у 3 знач.); <як> іерыхонская труба (у 2 знач.); як недарэзаны; як рэзаны. *Ходзіць ён [Халімон], як і цяпер, — замызганы, п'яненькі, лаецца на ўвесь свет адборнай, адсартованай ад добрых слоў лаянкай.* Каваль. *І бабкі сталі пераварочваць «Масквіч». Магло б, вядома, і такое здарыцца, але ж яны ўляпіліся з усіх бакоў, галёкалі на ўвесь свет, а машына толькі прыпаднімалася, як жук, што лянуецца ўзлятаць...* Брыль.

**2**. Перад усімі людзьмі, каб усе ведалі (лаяць, няславіць і пад.). *Я вас аблаю на ўвесь свет, як Гогаля у прошлым леце — я ж сам рэдактар ўсіх газет!* «Тарас на Парнасе». *[Жлукта:] Ты так лёгка ад мяне не адкруцішся. Я цябе абняслаўлю на ўвесь свет.* Крапіва.

**НА Т`ОЙ СВ`ЕТ** <u>праваліцца, лезці</u> і пад. *Акал. Разм.* Глыбока ў зямлю, у пясок, снег і пад. *Так і месяць коні жыта, зерне гоняць на той свет.* Трус. *Ламаўся лёд, ногі правальваліся на той свет — хоць бы на што аперціся.* Пташнікаў. *Дабраліся да ракі Мышанкі. Балота, нетры... Рака запоўнена мулам, ногі лезуць на той свет.* Місько.

**НА Ч`ЫМ СВ`ЕТ <СТА`ІЦЬ>** <u>*лаяць, лаяцца, клясці, крыць*</u> і пад. *Акал. Разм.* Вельмі моцна, нястрымна. **Сін**.: з апошніх слоў. *Бацька на чым свет стаіць лаяў і праклінаў сына Мікалая, а на другі дзень на ультыматум адказаў грашовым пераводам на дзвесце рублёў...* Васілевіч. *А я баяўся за тых, што ў піжамах і ватоўках плавалі на сярэдзіне ракі, махалі некаму кулакамі і лаяліся на чым свет стаіць.* Грахоўскі. *Увесь дзень ён [Сомік] кляў на чым свет стаіць члена сельсавета Язэпа Ганскага, што той не глядзіць, каб варта была на сяле...* Крапіва. *Прайшоў год, другі, глядзяць людзі — Ціток у бедняка перарабіўся... Кулакоў крые — на чым свет стаіць.* Лобан. *Шафёр злуецца, плюецца і лаецца. Лаецца — на чым свет.* Вярцінскі. *Адам Дэбаць быў не ў гуморы. Ён хадзіў з кута ў кут, пляваўся, лаяўся на чым свет.* Сіняўскі. *Лухта! Забабоны! Знахарак вунь усе на чым свет лаюць. Шарлатанкі!* Дудараў.

**НІ СВ`ЕТ НІ ЗАР`А.** *Акал. Разм.* Вельмі рана, перад світаннем, досвіткам. **Сін**.: чуць золак; чуць свет; чым свет; <яшчэ> чэрці на кулачкі не выходзілі. *Матка ледзь не кожны раз пры гэтым пачынала яшчэ больш завіхацца, лагодным голасам раіла паляжаць яшчэ; няма чаго ўставаць ні свет ні зара, адна тут управіцца.* Мележ. *Жонка кажа, торбу харчамі наладаваў ды ні свет ні зара некуды падаўся.* Сачанка.

**ПАБАЧЫЦЬ СВЕТ.** Гл. пабачыць.
**ПАЙСЦІ НА СВЕТ.** Гл. пайсці.
**ПЕРАВАРОЧВАЦЬ СВЕТ.** Гл. пераварочваць.
**ПРЫХОДЗІЦЬ НА СВЕТ.** Гл. прыходзіць
**ПРЫХОД НА СВЕТ** *каго, чый.* Гл. прыход.
**ПУСКАЦЬ НА СВЕТ.** Гл. пускаць.
**ПУСКАЦЬ НА ТОЙ СВЕТ** *каго.* Гл пускаць.

**СВ`ЕТ АДЧЫН`ЯЕЦЦА (АДКРЫВ`АЕЦЦА)** *каму*; **СВ`ЕТ АДЧЫНІЎСЯ (АДКР`ЫЎСЯ)** *каму. У безас. ужыв. Разм.* Каму-н. усё становіцца радасным, шчаслівым. **Ант**.: свет зачыніўся *каму, для каго. Скажу вам проста: цяпер толькі і жыццё мы пабачылі, цяпер толькі свет нам адчыніўся.* Колас. *Свет адкрыўся селяніну, кожны кут стаў ладзіць свой. Далі лесу на хаціну, надзялілі ўсіх зямлёй.* Броўка. *Свет яму [Сяргею] толькі цяпер адкрываецца, бо ён можа пазнаёміцца з любой дзяўчынай, запаліць яе душу каханнем, павесці за сабой!* Навуменка. *Прытым сёлета і на ферме лягчэй. Як скінулі таго Кажана, дык свет адчыніўся.* Дайліда.

**СВ`ЕТ ГАР`ЫЦЬ (ГАР`ЭЎ)** *з каго, праз каго, з-за каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* **1**. Хто-н. з’яўляецца прычынай шуму, перапалоху, беспарадкаў і пад. **Сін**.: ліха гарыць *з каго, праз каго*; сыр-бор разгарэўся *з-за каго, з-за чаго, праз каго, з чаго. Хтось з пастушкоў — недарма ж і свет з іх гарыць — засунуў у дубовае жарало галавешку з агнём.* Колас. *А мяне за што пад суд аддалі? Гэта ўсё з Паціеўскага свет гарэў...* Чорны. *Памаўчыць, памаўчыць Юстап дый прызнаецца: —Яно то, як вам сказаць, крыху і вядома, праз каго свет гарыць. Але няма каму чаго гаварыць! Не чужая-чужаніца, а сваё роднае тое.* Калюга. *—З-за яе свет гарыць! — адказаў за Русіновіча Малей. —І каб было з-за чаго. Бывае ж так! Дзяўчат поўна, і прыгожых, і ўсякіх, а тут раптам свет клінам сышоўся на Галцы Абушэнка.* Дамашэвіч.

**2**. Хто-н. з’яўляецца завадатарам чаго-н. дрэннага. **Сін**.: усе свечкі загараюцца *з каго, ад каго. Ціха, вар’яты, у будзённы дзень гульню распачалі. Зараз усю вуліцу збераце. Клемусь, гэта ўсё з цябе свет гарыць.* Чорны.

**СВ`ЕТ ЗАВ`ЯЗАНЫ** *каму. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. пазбаўлены свабоды дзеянняў. **Сін**.: галава звязана *ў каго, чыя*; рукі звязаны *ў каго.* **Ант**.: рукі развязаны *ў каго, чые. Пан не мае спагадання, што трэба жыць з сям’ёй на свеце, што ты, як рыба тая ў сеці, не маеш волі, ні разгону, што ты не чуеш жыцця звону, што гэта свет табе завязан і шлях прасторны твой заказан.* Колас. *Ідзіце вы, думаю, туды, куды па розум не ходзяць, што мне — свет завязаны*

*вамі?!* Брыль.

**СВЕТ ЗАЧЫН`ІЎСЯ (ЗАЧ`ЫНЕНЫ, ЗАКР`ЫЎСЯ)** *каму, для каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. аказаўся ў цяжкім, бязвыхадным становішчы. **Ант**.: свет адчыняецца *каму. О, якімі сонечнымі былі тыя дні, што пражылі ў вёсцы! А цяпер свет для мяне зачыніўся...* Левановіч. *Ці толькі шчасця, што тут? Ці яму свет зачынены? Ці з яго здольнасцямі не знойдзе ён сабе куска хлеба?* Колас. *Свет закрыўся чалавеку ў сярэднім яшчэ веку.* Крапіва.

**СВ`ЕТ КЛ`ІНАМ СЫШ`ОЎСЯ** *на кім, на чым. У безас. ужыв. Часцей у пытальных ск. Разм.* Хто-н. або што-н. з'яўляецца адзіным, з чаго можна выбіраць. *Прыйшло раптам зняважлівае пачуццё да таго вясковага цюхцяя. Сляпы ён, нічога не бачыць? Свет клінам сышоўся на гэтай Валі?* Навуменка. *[Андрэй:] Плюнем мы на гэту фабрыку! Хіба на ёй свет клінам сышоўся?..* Матукоўскі. *Сарафіна ўголас заплакала, і Андрэй здзівіўся: няўжо яна сапраўды баіцца, што яе звольняць з работы? Было б з-за чаго раўці — ці ж свет клінам сышоўся на гэтай рабоце?* І.Капыловіч.
**СВЕТ КЛІНАМ НЕ СЫШОЎСЯ** *на кім, на чым.* З супрацьлеглым знач. *Пойдзем далей, у Альхоўку ці Жылічы. Свет клінам не сышоўся! І там — тое самае возера, і бераг, кажуць, не горшы. Згода?* Гілевіч. *Вось і пагавары з такім. Ну што ж, на адным Парфене свет клінам не сышоўся, ёсць і вышэйшае начальства.* Аношкін. *Аднойчы прыбегла Жэнька і сказала, што ўжо ажаніўся, што яна сама чытала пісьмо, якое ён прыслаў маці, і што чорт з ім, з Валодзем. Быццам на ім адным свет клінам сышоўся. Каця таксама сказала, што на ім свет клінам не сышоўся.* Кудравец.

**СВ`ЕТ НЕ Б`АЧЫЎ** *якога, такога (якіх, такіх). У безас. ужыв. Разм. Часцей неадабр.* Ніколі не было, ніколі не сустракалася. Пра незвычайнага ў якіх-н. адносінах чалавека, людзей. **Сін**.: свет прайдзі, другога не знойдзеш *такога. —Цяпер тут, брат, гіцаль люцейшы за Мухеля. Адстаўны падпалкоўнік. Сам барон прывёз. Мікалаем Мікалаевічам завуць... Цюцька, якіх свет не бачыў, — дадаў Якаў Гошка.* Грахоўскі. *От ляні-івы! Такога яшчэ і свет не бачыў. То таго не магу, то таго...* Карпюк. *Яна магазіншчыцай была. Шэльма — свет не бачыў. Некалькі мужыкоў перабрала. Толькі і выскалялася перад мужчынамі.* Калодзежны. *Вось мой дзед курэц быў — свет не бачыў. Вечна агонь у зубах.* Шлег.

**СВ`ЕТ НЕ М`ІЛЫ (НЕ М`ІЛ)** *каму. У безас. ужыв. Разм.* Каму-н. усё абрыдла, нічога не падабаецца ў сувязі з дрэнным настроем, нясцерпным болем і пад. *[Ганна Паўлаўна:] А як з паравозам развітваўся... І пенсія не малая, жыць спакойна і сыта можна... А*

*яму свет не мілы.* Шынклер. «*Калі ж гэта ўсё скончыцца? — кажу я. —Абрыдла, свет не міл, зусім замучыўся: сам тут гібееш, а жонка там без гаспадара..»* Крапіва. *Закахалася дзеўка, як кажуць, па самыя вушы, здавалася, свет быў не мілы без яго [Івана].* Супрунчук.

**СВ`ЕТ НЕ ПЕРАВАР`ОЧВАЎСЯ (НЕ ПЕРАВЯРНУЎСЯ)** *ад чаго. У безас. ужыв. Разм.* Нічога асаблівага не змянялася пасля якіх-н. папярэдніх падзей, з’яў і пад. *Выслухаўшы прыяцеляў, слова ўзяў сам войт. Ён заспакоіў іх. Страшнага няма нічога ў тым, што канвой абяззброілі. Такія выпадкі бывалі і бываюць, і свет ад іх не пераварочваўся.* Колас. *Чаму не паслухаў Веру? Ну, і што б здарылася? З’явіўся б на тую фабрыку заўтра: план бы не загрымеў і свет не перавярнуўся б.* Лужанін. *Кастусь, малады, жыццём не навучаны, вазьмі і крыкні на ўвесь кірмаш: «Лжэ ваш Філька!..» Свет не перавярнуўся. Людзі як бы і не чулі слоў Кастуся.* «Маладосць».

**СВ`ЕТ ПЕРАВАР`ОЧВАЕЦЦА (ПЕРАВЯРН`УЎСЯ)** *<дзе>. У безас. ужыв. Разм.* Адбываецца што-н. незвычайнае, усё змяняецца карэнным чынам. *Перш чым пачаць размову, Блажэвіч паказаў на кнігі: —Схавай іх і не забівай імі сваёй светлай галавы. Тут, можна сказаць, свет пераварочваецца, а ён недзе ў паднябессі лунае.* Няхай.

**СВ`ЕТ ПЕРАВАР`ОЧВАЕЦЦА (ПЕРАВЯРН`УЎСЯ)** *каму. У безас. ужыв. Разм.* Каму-н. робіцца блага (ад болю, у выніку галавакружэння і пад.). **Сін**.: кругі ў вачах плывуць *у каго*; свет пераварочваецца ў вачах *чыіх*; цямнее ў вачах *у каго, каго. Ды перабраў тут дзядзька меру: на слуп узбіўся, на халеру, дык так аб падлу штурхануўся, што свет яму перавярнуўся...* Колас. *Маўчы.., мне свет пераварочваецца. Мяне за сэрца смокча.* Чорны.

**СВ`ЕТ ПЕРАВАР`ОЧВАЕЦЦА Ў ВАЧ`АХ** *чыіх. Незак. У безас. ужыв. Разм.* Каму-н. робіцца блага (ад болю, у выніку галавакружэння і пад.) **Сін.:** кругі ў вачах плывуць *у каго*; свет пераварочваецца *каму*; цямнее ў вачах *у каго, каго.*

**СВЕТ ПРАЙДЗІ, ДРУГОГА НЕ ЗНОЙДЗЕШ** *такога.* Гл. прайдзі.

**СВ`ЕТ СТА`ІЦЬ (ТРЫМ`АЕЦЦА)** *на кім, на чым. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. ці што-н. з’яўляецца жыццёвай асновай, тыповай з’явай чаго-н. *[Раман Песенька:] Ат, хто плаціць, а хто так выкручваецца. [Яўхім Стрыгун:] А што ж, кожны бароніцца як можа. На гэтым свет стаіць.* Чорны. *Ты нам, дзядзька Сцяпан, не вельмі зайздросць. Мы і самі зайздросцім малодшым. Людзі растуць. На гэтым, золатка, і свет стаіць.* Брыль. *Трэба каму-небудзь і*

*аглядчыкам вагонаў укалваць. На адных беларучках свет не стаіць!..* Навуменка. *Свет на добрых людзях трымаецца. І тады, калі бяда ці гора, і тады, калі радасць у хаце.* Гіль. *—Ай, Паўлінка, у цябе вечна — абкруцяць, падмануць. —На гэтым свет трымаецца, мілая мая, а не на тваіх выбрыках.* Іпатава.

**СВ`ЕТ Ц`ЕСНЫ.** *У безас. ужыв. Функц. не зам.* У любым месцы можна нечакана сустрэцца са знаёмым. *Мне сказалі, што ў тым жа лагеры, дзе праходзілі судовыя працэсы, знаходзіцца генерал-лейтэнант паліцыі, групэнфюрэр СС, былы начальнік аховы Гітлера Ганс Ратэнхубер. Свет цесны, падумаў я, адразу ўспомніўшы тыя салдацкія размовы пра Гітлера і яго ахоўнікаў.* Хомчанка. *Свет цесны, гэта сказана не мною... Праз тлумны магазін, без гаманы хлапчына за чаргою, аўтограф просіць: «Я са Старыны!»* Лось. *Ну што, бывай, тонкая-звонкая. Свет цесны, сустрэнемся...* Філімонава.

**СМУРОДЗІЦЬ СВЕТ.** Гл. смуродзіць.

**Т`ОЙ СВ`ЕТ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных* чл. *ск. Разм.* Замагільны свет як супрацьпастаўленне зямному жыццю. **Ант**.: гэты свет. *«Уміраць ім тут не трэба: ім тут рай і ім тут неба», — думаў моўчкі дзед Даніла, збоку стаўшы ад паноў: —«Што ім той свет? Ім тут міла...»* Колас. *—Супроць бога ідзеш, дый бацька на тым свеце гнявацца будзе, — адрэзаў мне поп.* Крапіва. *—Глядзі, ваяка, каб не ўцяклі ў цябе тыя юды. — У мяне не ўцякуць! Хіба на той свет толькі.* Лынькоў. *Нядаўнія суседзі ўсё яшчэ былі ў Нямеччыне, і ніхто пра іх нічога не гаварыў — жывыя яны яшчэ ці даўно ўжо на тым свеце.* Далідовіч.

**УБАЧЫЦЬ СВЕТ.** Гл. убачыць.

**У <Б`ЕЛЫ, Б`ОЖЫ> СВ`ЕТ** <u>ісці (пайсці), ехаць (з'ехаць)</u> і пад. *Акал. Разм.* **1**. У невядомым напрамку, не выбіраючы дарогі, абы-куды, невядома куды. **Сін**.: за вачыма *бегчы*; куды вочы вядуць; куды вочы глядзяць (у 1 знач.); куды ногі вядуць; куды ногі нясуць (у 1 знач.); у <белы> свет як у капейку (у 1 знач.); у свет вочы. *Хмараю насунулася войска... Патапталі нашы палі і паплавы, паадбіралі статак і хлеб і прагналі ў белы свет.* Гартны. *—Едзем... у божы свет... А раптам н-немцы?.. —Панок пачаў заікацца.* Пташнікаў. *Бывай жа, хата, добры час! І ў свет пайшоў бабыль рухавы.* Колас. *Калі ўся сям'я яго сядзела ўжо на возе і кленчыла-ўпрошвала дзеда сесці з імі і «ехаць у свет», ён упёрся і ні за што не хацеў ехаць.* Бядуля. *Эх, другі б кінуў даўно ды пайшоў у свет — куды вочы глядзяць, а я не магу, а я ўсё маўчу, хоць і натраўляюць блізкія людзі, як ваўка.* Каваль.

**2**. Адпаведна жаданням, куды захочацца, уздумаецца. **Сін**.: куды вочы глядзяць (у 2 знач.); куды вочы нясуць; куды ногі нясуць (у 2 знач.). *Падарожны з дубу тога дудку жыва змайстраваў і пайшоў у свет ён божы з тою дудкай жабраваць.* Колас. *Кідай Аніса... Пойдзем у белы свет з табой. Там шчасце сваё знойдзем, прытулак знойдзем свой.* Куляшоў. *Оля ўжо выгадавала чацвёра дзяцей, якія пайшлі ў свет.* Пестрак. *—Дык нельга ж казаць, што развітваемся зусім. Ты ж на тое і вучылася, каб у свет ісці, — узбадзёрыў Ігнась...* Мурашка.

**У <Б`ЕЛЫ> СВ`ЕТ ЯК У КАП`ЕЙКУ.** *Акал. Разм.* **1**. У невядомым напрамку, не выбіраючы дарогі, абы-куды, невядома куды (ісці, пайсці, ехаць і пад.). **Сін**.: за вачыма *бегчы*; куды вочы вядуць; куды вочы глядзяць (у 1 знач.); куды ногі вядуць; куды ногі нясуць (у 1 знач.); у <белы> свет (у 1 знач.); у свет вочы. *—Куды гэта вы сабраліся? — У белы свет як у капейку. —Што гэта значыць?.. Куды вы ідзяце? Скажыце праўду. —Куды вочы глядзяць, я ўжо сказаў вам.* Мурашка. *У белы свет як у капейку нас выгнаў злыдзень з родных хат.* Вітка. *[Мацвей] паехаў у белы свет як у капейку: пакляўся вярнуцца сюды, калі забудзе Алену.* Казько. *Пачалося развітанне — адны ішлі далей, у невядомасць, у свет як у капейку, другія заставаліся дома, у сваёй вёсцы.* Сачанка. *Піў [сын], распуснічаў, а потым з'ехаў у свет як у капейку — каторы год не піша і не прыязджае.* Радкевіч.

**2**. Не цэлячыся, спадзеючыся на шчаслівы выпадак (страляць і пад.). **Сін**.: богу ў вокны. *Стралялі па ўсім фронце. Напэўна на нямецкую трывогу адгукнуліся рускія акопы. Усе дальнія стралялі, безумоўна, у белы свет як у капейку.* Шамякін. *Месяц зацягнуўся аблокамі, цені расплыліся, таму і тыя і другія стралялі ў белы свет як у капейку.* Грахоўскі. *Немцы.. страляюць у лес з мінамётаў, пускаючы міны ў той бок, дзе былі партызаны, — у белы свет як у капейку.* Пташнікаў.

*<u>Падпісаць</u>* **У СВ`ЕТ.** *Акал. Функц. не зам.* На права друкаваць увесь тыраж. *—Не забывайцеся: вы яшчэ павінны нумар падпісаць. —Кажаш, Пётра, не забыцца нумар у свет падпісаць?* Даніленка. *Стомлены, запылены вяртаецца [Андрэй] вечарам, падпіша нумар «у свет» — і зноў мчыць на зерняток ці начную ўборку ў замацаваны калгас...* Блакіт.

*<u>Ісці, пайсці</u>* і пад. **У СВ`ЕТ В`ОЧЫ.** *Акал. Разм.* У невядомым напрамку, не выбіраючы дарогі, абы-куды, невядома куды. **Сін**.: за вачыма *бегчы*; куды вочы вядуць; куды вочы глядзяць (у 1 знач.); куды ногі вядуць; куды ногі нясуць (у 1 знач.); у <белы> свет (у 1

знач.); у <белы> свет як у капейку (у 1 знач.). *Хто смялейшы, тыя ад беднасці кідаліся ў свет вочы — вербаваліся ў Аргенціну, у Парагвай.* Брыль. *[Цар] з вялікім жалем у сэрцы, не хочучы гэтых здрадаў трываць, царства пакінуў і паехаў у свет вочы, на Божую параду спадзеючыся.* Арлоў.

**ЧУЦЬ СВ`ЕТ.** *Акал. Разм.* Вельмі рана, досвіткам. **Сін**.: ні свет ні зара; чуць золак; чым свет; <яшчэ> чэрці на кулачкі не выходзілі. *Гэта дзед Андрэй чуць свет забег да Антона і дзяліўся з ім навінамі апошняе ночы.* Лынькоў. *Чуць свет сталі збірацца ў дарогу.* Каваль. *Каця.. цэлы месяц не вылазіла з фермы; пойдзе чуць свет і вяртаецца позна вечарам.* Кудравец.

**ЧЫМ СВ`ЕТ.** *Устар. Акал. Разм.* Вельмі рана, перад світаннем, досвіткам. **Сін**.: ні свет ні зара; чуць золак; чуць свет; <яшчэ> чэрці на кулачкі не выходзілі. *[2-і яздок:] Паедзем далей, тут нічога нам не паказвае на след. [3-і яздок:] А як вы ўбачылі б такога, — злавіць, звязаць — і к нам чым свет.* Купала. *І скочыў, памчаўся чым свет да Кіева-горада, да дня.* Купала.

**ЯК <НАНАВА> НА СВЕТ НАРАДЗІЎСЯ.** Гл. нарадзіўся.

<u>Стары</u> **ЯК СВ`ЕТ.** *Акал. Разм.* Вельмі (стары). Пра каго-н. ці што-н. **Сін**.: як свет стаіць (у 1 знач.). *Станок неблагі, хоць і стары як свет.* Якімовіч. *Са смугі ўжо вынырнула макаўка марытонавіцкай старой як свет царквы, у якой да часу мясціўся раённы клуб.* Сабаленка. *Разважанні мае старыя як свет, але ў запале мы пра іх забываемся, спрабуем падняць свой аўтарытэт і трацім яго канчаткова.* Грахоўскі. *Нельга сказаць, што яна [Сямёнаўна] была вялікага веку, але выглядала старой як свет.* Карамазаў.

**ЯК СВ`ЕТ СВ`ЕТАМ.** *Акал. Разм.* **1**. Заўсёды, спрадвечна, усё жыццё. **Сін**.: ад адама (у 1 знач.); ад веку да веку; век вечны; век-вяком (у 1 знач.); з веку ў век; здавён-даўна; спакон вякоў. *Наперад чалавек нічога не можа ведаць. Ні я, ні ён, ніхто не можа ведаць, што заўтра можа быць. Гэта як свет светам, гэта заўсёды так, і ніхто гэтага не перайначыў.* Чорны. *Мусіць, як свет светам чалавека цягне туды, дзе на свет прыйшоў.* Янкоўскі.

**2**. *Ужыв. ў адмоўн. ск.* Ніколі. **Сін**.: ва векі вякоў (у 2 знач.); век-вяком (у 2 знач.); на векі вечныя (у 2 знач.); па век вякоў; як свет стаіць (у 2 знач.). *Як свет светам яшчэ ні адзін цар для свайго народа, для мужыкоў нічога добрага не зрабіў.* «Дзядзька Антон». *Такое не здаралася, відаць, як свет светам: да мужыцкага сына прыслалі сваццю з панскага двара...* Брыль.

**ЯК СВ`ЕТ СТА`ІЦЬ.** *Акал. Разм.* **1**. Вельмі (старое што-н.). **Сін**.: як свет. *—Ты яшчэ маладая. Хіба хто гоніць? —Чаго тут*

*дачакаешся? А ён хоча, каб цяпер. —Мар'я змоўкла. Старая, як свет стаіць песня.* Навуменка.

**2**. *Ужыв. ў адмоўн. ск.* Ніколі. **Сін**.: ва векі вякоў (у 2 знач.); век-вяком (у 2 знач.); на векі вечныя (у 2 знач.); па век вякоў; як свет светам (у 2 знач.). *Божачка мілы, што гэта дзееца. Любачка мая, гэта ж як свет стаіць гэткага не чуваць было, чэснае слова.* Зарэцкі. *Як свет стаіць вас ніхто не вёў за людзей...* Юрчанка.

*СВЕТАМ* • **БРЫДЗІЦЬ СВЕТАМ.** Гл. брыдзіць.

**ЗА СВ`ЕТАМ.** *Акал. Разм.* Вельмі далёка (знаходзіцца дзе-н., жыць, быць і пад.). **Сін**.: блізкі свет; за дзесятай гарой; за трыдзевяць зямель; на краі свету; у віру на калу; у чортавых зубах; у чорта на кулічках; у чорта на рагах; у чорта ў зубах. *А сенакос тут дзе? за светам! А там блізютка, каля дома — Парэчча добра мне знаёма...* Колас. *Праўда, тыя мясціны недзе за светам, але дарога салдату — не перашкода...* Палтаран. *Як гэта, ці ж па-людску гэта, што адзіны сын-наследнік швэндаецца за светам па чужых людзях?* Блакіт.

**КРУЦІЦЬ СВЕТАМ.** Гл. круціць.

**ЯК СВЕТ СВЕТАМ.** Гл. свет.

*СВЕТЛАЯ* • **СВЕТЛАЯ ГАЛАВА.** Гл. галава.

**СВЕТЛАЯ ГАЛАВА** *ў каго.* Гл. галава.

*СВЕТЛЫ* • **НАВОДЗІЦЬ ЦЕНЬ НА СВЕТЛЫ ДЗЕНЬ.** Гл. наводзіць.

*СВЕТУ* • **АДЫХОДЗІЦЬ З ГЭТАГА СВЕТУ.** Гл. адыходзіць.

**ВОСЬМЫ ЦУД СВЕТУ.** Гл. цуд.

**ВЯРНУЦЦА З ТАГО СВЕТУ.** Гл. вярнуцца.

**ВЯРНУЦЬ З ТАГО СВЕТУ** *каго.* Гл. вярнуць.

**ЗВОДЗІЦЬ СА СВЕТУ** *каго.* Гл. зводзіць.

**ЗЖЫВАЦЬ СА СВЕТУ** *каго.* Гл. зжываць.

**З-ЗА СВ`ЕТУ.** *Акал. Разм.* Здалёк (ехаць, прыехаць, даставаць і пад.). **Сін**.: з усяго свету; са свету. *Прыехаў я сюды з-за свету, з-пад самых Стоўбцаў — чулі можа?* Колас. *Скора прывёў Ілья сюды і сваю, не па сабе маленькую жонку Настасю з сынам Якавам на руках. Пасаг яе ў старым куфэрку з-за свету на плячах прынёс.* Лобан. *Хм, ласунак знайшлі, карасёў захацелі. Я іх з-за свету даставаў, а яны...* Ракітны.

**З УСЯГ`О СВ`ЕТУ.** *Акал. Разм. Часцей неадабр.* Невядома адкуль, здалёк. **Сін**.: з-за свету; са свету. *Таго не ведаюць, што славуты гандлёўшчык не валацуга які з усяго свету, што забыўся пра сваю радзіму*; *яго бацька не абыяк, а Юстап зваўся.* Калюга. *Горад, кажуць, цяпер зноў неспакойны. Ведама, люд там зборны, з усяго свету, дык адчайны, смелы.* Далідовіч.

**З’ЯЎЛЕННЕ З ТАГО СВЕТУ.** Гл. з’яўленне.

**НА КРАІ СВЕТУ.** Гл. краі.

**НА КРАЙ СВЕТУ.** Гл. край.

**НЕ БАЧЫЦЬ <БЕЛАГА> СВЕТУ.** Гл. бачыць.

**СА СВ`ЕТУ.** *Акал. Разм.* Здалёк (прыехаць). **Сін**.: з-за свету; з усяго свету. *Вось быццам прыехала са свету дамоў дзяўчына і апавядае, як там людзям жывецца.* Гарэцкі. *Мама расказвала, як нечакана дачушка яе прыняла рашэнне выйсці замуж за таго добрага хлопца, што «знедалёку». З-пад Вілейкі. Не з Валожына, але ж не са свету.* Янкоўскі.

**СВ`ЕТУ Б`ОЖАГА** не відаць. *Акал. Разм.* Зусім нічога (не відаць з-за мяцеліцы, завірухі). *Бралася на вясну, як раптам стукнуў мароз, а пасля марозу закруціла мяцеліца, і так закруціла, што свету божага не відаць было.* Лобан. *А зімою задзьме, замяце ды закруціць — свету божага не відаць.* Грахоўскі.

**Т`ОЛЬКІ СВ`ЕТУ ШТ`О Ў АКН`Е (У АК`ОНЦЫ)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Адзіная радасць і турбота ў каго-н. *—Плачам нічога не паможаш, — суцяшаў Уладзік. —Ды і хіба толькі свету што ў акне! Знойдзеш другога, лепшага. Ты ж маладая яшчэ ды прыгожая.* Крапіва. *Ці ж толькі свету што ў аконцы? Або так міла тут бясконца? І там мы будзем жыць таксама: няма ўжо горшай, як тут яма.* Колас.

**ХОЦЬ НА КРАЙ СВЕТУ.** Гл. край.

*СВЕЦЕ* ● **ЁСЦЬ БОГ НА СВЕЦЕ.** Гл. бог.

Не было, не будзе, няма **НА СВ`ЕЦЕ.** *Кампанент безас. вык. Разм.* Сярод жывых, у жывых. *—Гэта было вельмі даўно, дарагое маё дзіця, — гаварыў Тапурыя. —Твайго бацькі яшчэ не было на свеце, а ён ужо не маладога веку.* Самуйлёнак. *Іх, відаць, яшчэ і на свеце не было, калі Андрэй апошні раз выехаў з дому.* Грахоўскі. *Што ж, я ўжо век свой пражыў, можа, і не будзе мяне хутка на свеце, дык думай сам.* Чорны. *Ці ён жывы, ці ўжо на свеце яго, гаротнага, няма?* Колас.

Усё (усе) **НА СВ`ЕЦЕ.** *Акал. Разм.* Абсалютна (усё, усе). *Тэатр засланіў перад ім [Вашамірскім] усё на свеце.* Бядуля. *Карова за ноч здрабяжыла нагамі пад сабой усё на свеце — рэзалі недзе камары — і стаяла цяпер у гразі...* Пташнікаў.

**НА Т`ЫМ СВ`ЕЦЕ** дастаць, знайсці. *Акал. Разм.* Пры любых абставінах, абавязкова, дзе б ні аказаўся хто-н. **Сін**.: з дна марскога; з дна мора; з-пад зямлі; пад зямлёй. *Перад тым як легчы, ён [Яўхім] прыгразіўся лесніку, што, калі той што намерыцца, на тым свеце дастане.* Мележ. *—Я, брат, пагарэў з гэтай жаніцьбай.*

*Сына, Юркі, шкада. —Ігнаценка [цесць] на тым свеце знойдзе.* Мыслівец.

**НА Т`ЫМ СВ`ЕЦЕ ВУГ`ОЛЬЧЫКАМІ (ВУГ`ЕЛЬЧЫКАМІ)** *заплаціць, разлічыцца* і пад. *Акал. Разм. Іран.* Нічога і ніколі не (заплаціць і пад.). *—Вам, можа, Ялавіцкі заплаціць?.. —Заплаціць на тым свеце вугольчыкамі.* Баранавых. *—А хто будзе разлічвацца? — спытаў рамізнік. —Разлічымся на тым свеце вугельчыкамі, — выскаліў зубы чалавек у шэрым.* Гурскі.

**НЕ ВЕДАЦЬ НА ЯКІМ СВЕЦЕ ЗНАХОДЗІЦЦА.** Гл. ведаць.

**НЕ ЖЫЛЕЦ <НА БЕЛЫМ СВЕЦЕ>.** Гл. жылец.

**НІ ЗА ШТО НА СВЕЦЕ.** Гл. што.

**ПУСКАЦЬ З ТОРБАЙ <ПА СВЕЦЕ>** *каго.* Гл. пускаць.

*СВЕЦІЦЬ* ● **НЕ СВ`ЕЦІЦЬ (НЕ СВЯЦ`ІЛА)** *каму. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Не дае падстаў разлічваць на поспех. *Зусім зразумела: разводная справа Маргарыты не свеціць Ізольдзе Апанасаўне. Кідае цень на бальніцу, нават на яе самую.* Навуменка. *—Аднак мусім ісці,— не адступаў Даніла. —Нішто іншае нам пакуль не свеціць...* Аношкін. *Тут мне нічога не свяціла. Вінавата развітаўшыся, я выйшаў на вуліцу.* Шахавец. «*Ну, — думаў Пятро, выходзячы з канторы, — тут мне нічога не свеціць*». Цяжкі.

*СВЕЧКА* ● **НІ Б`ОГУ СВ`ЕЧКА НІ Ч`ОРТУ КАЧАРГ`А.** *Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пасрэдны чалавек, які нічым не вызначаецца. **Сін.**: з сярэдзінкі на палавінку (у 1 знач.); не бог ведае які; ні два ні паўтара (у 1 знач.); ні рыба ні мяса; ні сыры ні печаны; ні тое ні сёе (у 1 знач.); ні ў салдаты ні ў матросы; пасаліўшы можна есці; сюды-туды (у 3 знач.); сярэдзінка на палавінку; сярэдняй рукі; так сабе (у 3 знач.); чорт не чорт і два не выходзіць. *[Язва:] Я з гэтай няшчаснай Клавай ужо некалькі месяцаў мучуся, не ведаю, што з ёю рабіць. Ні богу свечка ні чорту качарга.* Крапіва. *У падлюбцаў пад уласным прозвішчам можа жыць толькі чалавек зусім ні на што не здатны, зусім непрыкметны, пра якога гавораць, што ён — ні богу свечка ні чорту качарга...* Сяркоў. *Э-э, напарнік мне: ні богу свечка ні чорту качарга.* Калодзежны.

**ЯК СВ`ЕЧКА.** *Акал. Разм.* **1.** Роўным, высокім, яскравым полымем (гарэць, згарэць і пад.). *– Сухое, гарыць як свечка, – сказаў Піліпчык, каб усчаць якую гутарку з Сілівонам.* Лынькоў. *Яно [гумно] згарэла як свечка сярод белага дня.* Сабаленка. *Праз колькі хвілін дрэва загарэлася як свечка.* Мяжэвіч.

**2.** Роўна, нерухома, замёршы на месцы (стаяць, стаць і пад.). **Сін.**: як укопаны. *Чаго стаіш як свечка, памажы ззаду.* Ляўданскі. *На полі як свечка стаяла голая бярозка.* Ставер.

*СВЕЧКАЙ* ● **ПУСКАЦЬ СВЕЧКАЙ ДА БОГА** *што.* Гл. пускаць.

**СА СВ`ЕЧКАЙ** *не знойдзеш. Акал. Разм.* Ніякім чынам, аніяк (не знойдзеш каго-, чаго-н.). **Сін.**: днём з агнём (у 1 знач.); з сабакамі. *Усе мы ведаем, што лепшага месца пад наш калгасны двор як Першая Кругліца — не знойдзеш і са свечкай.* Брыль. *Цяпер вада хлявы затапіла, а ўлетку яе са свечкай не знойдзеш.* Гаўрылкін. *Праз год, праз два, праз тры, але яны [чырвоныя] прыйдуць, Рэхлінга ці Шмарлоўскага тут тады і са свечкай не знойдзеш.* Дайнека.

*СВЕЧКІ* ● **УС`Е СВ`ЕЧКІ ЗАГАР`АЮЦЦА (ЗАГАР`ЭЛІСЯ)** *з каго, ад каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. з'яўляецца завадатарам, зачыншчыкам чаго-н. дрэннага. **Сін.**: свет гарыць *з каго, праз каго, з-за каго* (у 2 знач.). *—Вы ўжо хоць там, у хроснага, не выскаляйцеся лішне,.. —Што ж мы, сабакі — выскаляцца?.. —Ну, ты глядзі ў мяне! З цябе, нябось, усе свечкі і загараюцца!..* Брыль. *«Я табе, – кажа, – пасмяюся, я вам яшчэ пакажу!» І на цябе вярзе ўсяляк, бо ад цябе, кажа, усе гэтыя свечкі загарэліся.* «Полымя».

*СВЕЧКУ* ● **СТАВІЦЬ БОГУ СВЕЧКУ.** Гл. ставіць.

*СВІНЕЙ* ● **СВІНЕЙ НЕ ПАСВІЎ** *з кім.* Гл пасвіў.

*СВІННІ* ● **ЯК НА СВІННІ НАБЭДРЫКІ** *сядзець.* Гл. набэдрыкі.

**ЯК НА СВІННІ ПРАЕХАЦЬ.** Гл. праехаць.

**ЯК СВІННІ СЯДЛО.** Гл. сядло.

*СВІННЮ* ● **ПАДКЛАДВАЦЬ СВІННЮ** *каму.* Гл. падкладваць.

*СВІННЯ* ● **ПАКАЗАЦЬ НА ЧЫМ СВІННЯ ХВОСТ НОСІЦЬ** *каму.* Гл. паказаць.

*П'яны, напіцца, набрацца* **ЯК СВІНН`Я.** *Акал. Прает. Неадабр.* Вельмі моцна. **Сін.**: да парасячага піску; да чорцікаў (у 2 знач.); у дрызіну; у дым (у 1 знач.); у дыміну; як гразь; як зямля. *—Набраўся недзе як свіння дый брэша, як сабака; вось некаму цябе суняць! — так прабірае Жонка Мужа, які напіўся дужа і лаецца са смакам.* Крапіва. *Таварыш... Я — п'яны... да душы, п'яны... Набраўся як свіння...* Зарэцкі. *[Мажэйка:] Салавейчык быў не настолькі п'яны, як хоча зараз даказаць... [Салавейчык:] Няпраўда! Я быў п'яны як свіння.* Матукоўскі.

*Разумець, разбірацца* **ЯК (ШТО) СВІНН`Я Ў АПЕЛЬС`ІНАХ.** *Акал. Праст.* Зусім нічога не (разумець). **Сін.**: як баран у біблії. *Эге, змікіціў я, разбіраецца граф у кармах што свіння ў апельсінах.*

Аношкін.
*СВІННЯМІ* ● **СЫПАЦЬ БІСЕР ПЕРАД СВІННЯМІ.** Гл. сыпаць.
*СВІНОЕ* ● **СВІНОЕ ВУХА.** Гл. вуха.
*СВІНТУС* ● **СВ`ІНТУС ГРАНДЫ`ЁЗУС.** *Часцей ужыв. у адз. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Ганебны, няўдзячны чалавек, нахабнік. *Гэта запрашэнне свінтус грандыёзус.., забыўшыся на яго, перадаў толькі ўчора, калі ў цябе ўжо, відаць, пачалося вяселле.* Лынькоў. *Ты мне даруй, што я цябе сустрэў так... Разаспаўся, ведаеш.. А тут свае клопаты... Дык ты даруй, што я такі свінтус грандыёзус..* Гаўрылкін. —*Што гэта ты?.. Ледзь не грубіць пачаў. — Дык жа свіння... свінтус грандыёзус! — усё яшчэ не мог апаматацца, супакоіцца Андрэй Макаравіч.* Сачанка. *А сам як аднёсся да ўсяго, каб на яе месцы быў?.. Свінтус грандыёзус ты, таварыш Мікульскі...* Місько. *Тады і падумалася, якой жа моцы і бяздушша павінен быў быць той «свінтус грандыёзус», што сваім сталёвым лычом перарыў, перакапаў, знявечыў і спаскудзіў зямлю, якая яшчэ нядаўна некага карміла, некаму была радзімай, некаму апошнім прыстанішчам, пазначаным крыжам ці абеліскам з зорачкай.* Петрашкевіч.
*СВІНЫЯ* ● **У СВІНЫЯ ГАЛАСЫ.** Гл. галасы.
*СВІСНЕ* ● **КАЛІ РАК <НА ГАРЫ> СВІСНЕ.** Гл. рак.
*СВІСТАЦЬ* ● **СВІСТ`АЦЬ (ТРУБ`ІЦЬ) У КУЛ`АК.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гараваць, жывучы ў крайняй беднасці. **Сін**.: біцца як рыба аб лёд; зацягваць паясы. *Пасля спыталася [цётка:] «Галодны? Чаму маўчыш? Кажы, дзівак!» Прыём няшчыры і халодны, нібыта ім я не сваяк. Трывай, нягоднік, адыходнік, свішчы, як кажуць, у кулак!* Бялевіч. *Амаль у кожнага застыў у вачах ціхі смутак па пакінутай дамоўцы, дзе засталіся і, можа, з голаду трубяць у кулак родныя дзеці.* Шлег. **ЗАСВІСТАЦЬ (ПАСВІСТАЦЬ, ПАТРУБІЦЬ) У КУЛАК.** *Зак. Летам то яшчэ нічога, а як зіма прыйдзе, то хоць у кулак засвішчы.* Лобан. *Ну, Няхлебічу я, сказаць, не аддаў двух пудоў жыта яшчэ, дык цяпер трасцы і аддаваць буду. Цяпер не сышча, няхай у кулак пасвішча.* Чорны. *[Бабуля] баіцца, што без яе не засеюць поля, і тады народ паскача і пасвішча з голаду ў кулак.* Сяркоў. *Патрубіш у кулак.., як бяда прыпрэ.* Калюга.
**СВІСТАЦЬ У АДНУ ДУДКУ** *з кім.* Гл. іграць.
*СВІШЧА* ● **ВЕЦЕР СВІШЧА Ў КІШЭНЯХ** *у каго, чыіх.* Гл. вецер.
**ВЕЦЕР У ГАЛАВЕ СВІШЧА** *ў каго.* Гл. вецер.
*СВОЙ* ● **ГНУЦЬ <СВОЙ> ГОРБ.** Гл. гнуць.
**ГНУЦЬ <СВОЙ> ГОРБ** *перад кім.* Гл. гнуць.

**ЕСЦІ СВОЙ ХЛЕБ.** Гл. есці.
**ЗАКОПВАЦЬ <СВОЙ> ТАЛЕНТ У ЗЯМЛЮ.** Гл. закопваць.
**ІСЦІ НА СВОЙ ХЛЕБ.** Гл. ісці.
**МАЧАЦЬ СВОЙ ХЛЕБ У ДЗВЕ СОЛІ.** Гл. мачаць.
**МЕРАЦЬ НА СВОЙ АРШЫН** *каго, што.* Гл. мераць.
**МЕРАЦЬ НА СВОЙ КАПЫЛ** *каго, што.* Гл. мераць.
**НА СВОЙ КАПЫЛ.** Гл. капыл.
**НА СВОЙ СТРАХ І РЫЗЫКУ.** Гл. страх.
**НЕСЦІ <СВОЙ> КРЫЖ.** Гл. несці.
**НЕ Ў СВОЙ ДУХ.** Гл. дух.
**ПРЫМАЦЬ НА СВОЙ РАХУНАК** *што.* Гл. прымаць.
**СВОЙ БРАТ.** Гл. брат.

**СВ`ОЙ (-Я, -Е) У Д`ОШКУ.** *Часцей вык. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Па-сапраўднаму блізкі, вельмі шчыры чалавек. *—Няпраўда. Ён свой у дошку. Я гэта... знаю, — ціха сказаў, уздыхнуўшы, Андрэй.* Парахневіч. *—Сёння мінуў выпрабавальны тэрмін, і, па-мойму, Віктар экзамен вытрымаў... —Наш чалавек! Свой у дошку!* Кобец-Філімонава. *—Ты, Васіль, калі будзеш на раёне, прыглядвайся да людзей... Па-мойму свае яны... — Свае ў дошку! — ахвотна выгукнуў аграном.* Навуменка. *[Шыпняк] прывёў для знаёмства і адрэкамендаваў: «Свае ў дошку!» Адзін назваўся Міронам.* Місько.

**СОВАЦЬ <СВОЙ> НОС** *куды, у што.* Гл. соваць.
**СТРЫГЧЫ ПАД СВОЙ ГРАБЯНЕЦ** *каго.* Гл. стрыгчы.
**ТКНУЦЬ <СВОЙ> НОС** *куды.* Гл. ткнуць.
**ТЫЦКАЦЬ <СВОЙ> НОС** *куды, у што.* Гл. тыцкаць.
**УНОСІЦЬ СВОЙ УКЛАД** *у што.* Гл. уносіць.

**ЯК НЕ СВ`ОЙ (СВА`Я, СВА`Е, СВА`Ё).** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, часцей у спалучэнні з дзеясл. *быць, хадзіць, ісці, стаяць* і пад. Моцна ўсхваляваны, у стане разгубленасці, роспачы, адчаю. **Сін.**: не ў сабе; сам не ў сабе; як пад зямлёй; <як> сам не свой; як у ваду апушчаны; як цень (у 2 знач.). *Цераз тыдзень надыдуць тыя дзянёчкі, калі трэба пакінуць вёску. А тады — іншае жыццё пачнецца. Як не свой хадзіў гэтыя дні Цімка.* Каваль. *[Марыся] схапіла табурэтку і закрыла ёю свой твар. Карзюк стаяў у парозе як не свой.* Баранавых. *Цэлы дзень яна [Ліза] была як не свая.* Радкевіч. *Два дні мы хадзілі як не свае.* Прыгодзіч.

**<ЯК> САМ НЕ СВОЙ.** Гл. сам.
*СВЯРБІЦЬ* ● **ЯЗЫК СВЯРБІЦЬ** *у каго, каму.* Гл. язык.
*СВЯРБЯЦЬ* ● **КУЛАКІ СВЯРБЯЦЬ** *у каго.* Гл. кулакі.
**РУКІ СВЯРБЯЦЬ** *у каго.* Гл. рукі.

*СВЯТ* • **ЯК БОГ СВЯТ.** Гл. бог.

*СВЯТА* • **СВ`ЯТА НА В`УЛІЦЫ** *чыёй. У ролі розных чл. ск. Разм. Узнёсл.* Здзяйсненне чыіх-н. надзей, жаданняў. *Праз некалькі дзён адбылося свята на Кастусёвай вуліцы: ён прыйшоў на першы ўрок у беларускую школу.* С.Александровіч. *Праходзячы каля Турца, [казакі] «павіншавалі бобікаў» — пусцілі ім некалькі нечаканых і трапных снарадаў. Каб ведаў вораг пра свята на нашай вуліцы.* Брыль. *Сам акадэмік Васількоў, адзін з паплечнікаў і вучняў Васіля Робертавіча Вільямса, выступіў афіцыйным апанентам. Сёння на маёй вуліцы свята... Прашу за стол!..* Э.Валасевіч. *— У нас ёсць падстава, Анатоль Ільіч, павіншаваць адзін аднаго? І на нашай беларускай вуліцы свята. — Гэта сапраўды так.* Вярцінскі. *Аматары футболу і прыхільнікі нашай зборнай нарэшце дачакаліся свята на сваёй вуліцы. Гэта адбылося пасля таго, як нацыянальная зборная Беларусі згуляла ў нічыю з украінцамі і перамагла нарвежцаў.* «ЛіМ».

*СВЯТАЯ* • **СВЯТАЯ ПРАСТАТА.** Гл. прастата.

**СВЯТ`АЯ СВЯТ`ЫХ** *<чаго>*; **СВЯТ`ОЕ СВЯТ`ЫХ** *<чаго>. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* **1**. Недаступнае памяшканне, якое строга ахоўваецца. *У разгар вясны прыйшоў да Краўчанкі сувязны і перадаў ад таварыша Андрэя просьбу — пранікнуць у «святая святых» складанай жандарскай махіны — у канцылярыю «асабістага прадстаўніка» Розенберга і ўстанавіць, па якіх каналах трапляюць туды весткі аб людзях, што спагадаюць партызанам.* Мікуліч.

**2**. Месца, якое з'яўляецца вельмі дарагім, да якога адносяцца з пашанай. *Я не хацела б, каб у святое святых — яго кабінеце, рукапісах капаўся хто-небудзь чужы, той, хто не разумеў Язэпа Апанасавіча, не цаніў яго.* Сачанка.

**3**. Памяшканне ці асобнае месца ў ім, дзе вядуцца адказныя работы, знаходзяцца важныя прыборы і пад. *Мы яшчэ хадзілі.., дзе размешчана святая святых — картатэка.* Лобан. *Давайце наведаемся ў святая святых радыё — студыю гуказапісу.* «ЛіМ».

**4**. Самае важнае, дарагое, запаветнае. *Так, дарагі Аляксей Максімавіч, адна шостая частка свету ўрачыста і ўсенародна зацвердзіла твае прароцкія запэўненні, што святая святых — чалавек.* Купала. *Камісар як бы ўвёў яго [Мялешку] у святая святых тых спраў, якія не належыць нікому ведаць, апроч самага вузкага кола людзей.* Асіпенка. *І ці ёсць у паэта маральнае права маўчаць, калі гаворка ідзе пра святая святых — пра паэзію?* Бондар.

*СВЯТКАВАЦЬ* • **ТР`УСА СВЯТКАВ`АЦЬ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв.

пры дзейн. са знач. асобы. Баяцца, палохацца. **Сін**.: задаваць труса; падтульваць хвост. *Кабакоў ціха прызнаўся: —Баюся... — Лейтэнант Самохін, ён што — заўсёды ў вас труса святкуе? —Ды быццам не.* Быкаў.

*СВЯТЛЕ* • **У РУЖ`ОВЫМ СВЯТЛ`Е (К`ОЛЕРЫ); У РУЖ`ОВЫХ К`ОЛЕРАХ (Ф`АРБАХ).** *Акал. Функц. не зам.* Ідэалізавана, лепш, чым на самай справе (бачыць, паказваць, уяўляць і пад.). **Ант**.: у чорным святле. У *Японіі выпушчаны ў свет і новыя падручнікі гісторыі, дзе японская інтэрвенцыя і ўсе звязаныя з ёю жахі паказаны ў ружовым святле.* «ЛіМ». *Я думаю, што ўсе, хто ваяваў, сваё будучае сямейнае жыццё ўяўлялі ў ружовым святле.* Федасеенка. *Не, я не імкнуся бачыць усё і ўсіх у ружовым колеры. Сустракаюцца ў нас і злачынцы, і дармаеды, і раскрадальнікі дзяржаўнай маёмасці.* «Звязда». *Браты ж Ліскоўскія гаварылі многа, з вялікай перакананасцю, гаварылі так, як бы толькі ў іх адчынены вочы на ўсе праявы жыцця. І ўсё малявалі яны ў ружовых колерах.* Колас. *Маню не навучылі разумець, якое складанае жыццё. Яго дзяўчына ўяўляла ў ружовых фарбах, і, калі ўзнік у Мані першы канфлікт з жыццём, яна да гэтага не была падрыхтавана.* Карпюк.

**У СВЯТЛ`Е** *чаго. Акал. Функц. не зам. З* якой-н. пазіцыі, у адпаведнасці з чым-н. **Сін**.: з гледзішча *чыйго, якога, каго, чаго*; з пункту гледжання *чыйго, каго, чаго. Таварыства дзейнічае ў святле рашэнняў сваёй канферэнцыі.* «Звязда».

**У СВЯТЛ`Е** *якім. Акал. Функц. не зам.* З якога-н. боку, якім-н. чынам, у якім-н. выглядзе (выстаўляць, падаваць, паказваць і пад.). *Ці добра зрабіў [дзед Талаш], сказаўшы сваім дамашнім сысці з дому? Апошні ўчынак устае перад ім у іншым святле.* Колас. *Чаму маляваць было ўсё ў такім бадзёра павярхоўным, фактычна — няпраўдзівым святле?..* Мележ. *Іншы раз Андрушкевічу здаецца што ў красамоўнасці, уменні паказаць у смешным святле таго, з кім ён не згодзен, увесь Вастрабрамскі.* Навуменка.

**У Ч`ОРНЫМ СВЯТЛ`Е (У Ч`ОРНЫХ Ф`АРБАХ).** *Акал. Функц. не зам.* Змрочна, непрыглядна, горш, чым на самай справе (бачыць, паказваць, выглядаць і пад.). **Ант**.: у ружовым святле. *Што ж, разумная крытыка на карысць ідзе, і баяцца яе няма чаго. Аднак не думаю, каб у вас тут усё блага было, выглядала ў чорным святле.* Хадкевіч. *У раёне столькі добрага, столькі станоўчага, чаму вам на гэта не скіраваць свае здольнасці? Навошта ж паказваць свой раён у чорным святле?* «Звязда». *Многія ў школе.. ставяцца да Ласуна рэзка адмоўна: усё, маўляў, ён бачыць у чорным святле,*

*любіць, калі іншым дрэнна.* «Настаўн. газ.» *У адным мы былі салідарныя: людзей, якія рабілі нам непрыемнасці, не паказваць у чорных фарбах, нікога не ганіць.* Шамякін.

*СВЯТЛО* ● **ЗЯЛ`ЁНАЕ СВЯТЛ`О.** *Мн. не ўжыв. Часцей у ролі дап. пры дзеясл.* *д а в а ц ь (д а ц ь). Функц. не зам.* Свабодны шлях, без перашкод і затрымак. **Сін**.: зялёная вуліца[1]. *Новае ж былымі легендамі не адолееш. Каб даць ідэям зялёнае святло, неабходна было распачынаць рэканструкцыю вытворчасці.* «Звязда». *Нельга не зрабіць асаблівы закід рэдакцыям газет і часопісаў, што яны даюць «зялёнае святло» слабым творам.* «ЛіМ».

**ЛІЦЬ СВЯТЛО** *на што.* Гл. ліць.

**СВЯТЛ`О ПРАЛІВ`АЕЦЦА (ПРАЛІЛ`ОСЯ)** *на што. У безас. ужыв. Кніжн.* Што-н. робіцца зразумелым. *Для мяне асабіста пралілося святло на вытокі канфлікту ў калгасе імя Суворава.* «Звязда». *[Афіцэр:] О, цяпер праліваецца святло на іх брудны падкідны лісток, пане капітан.* Колас.

**СВЯТЛ`О Ў КАНЦ`Ы ТУН`ЭЛЯ**. *Мн. не ўжыв. Дзейн. і дап. Функц. не зам.* Выйсце з цяжкага, змрочнага становішча. *І зноў нас вучаць ісці да мэты... Да якой мэты – і самі не ведаюць. Не відаць святла ў канцы тунэля. Морак ахутаў былыя ідэі, а новых няма.* Стральцоў. *Беларусь: з цемры – да святла ў канцы тунэля.* «Наша сл.» *Аказваецца, не ўсё так дрэнна на несправядлівым гэтым свеце. Ёсць, ёсць святло ў канцы тунэля.* Паўлава. *Каледж рыхтуе настаўнікаў замежнай мовы, а вось з камп'ютэрнай граматай справы пакуль «цёмныя», але са святлом у канцы тунэля.* «Настаўн. газ.»

*СВЯТОЕ* ● **НА СВЯТОЕ НІКОЛІ.** Гл. ніколі.

**СВЯТОЕ СВЯТЫХ** <*чаго*>. Гл. святая.

*СВЯТЦЫ* ● **ЗАБІЦЬ У ЗВАНЫ НЕ ПАГЛЯДЗЕЎШЫ Ў СВЯТЦЫ.** Гл. забіць.

**НЕ ЗІРНУЎШЫ Ў СВЯТЦЫ БІЦЬ У ЗВАНЫ.** Гл. біць.

*СВЯТЫ* ● **АДЗІН БОГ <СВЯТЫ> ВЕДАЕ.** Гл. бог.

*Сядзець* **ЯК СВЯТ`Ы <ТУР`ЭЦКІ>.** *Акал. Разм. Іран.* Нічога не робячы. **Сін**.: склаўшы рукі. *[Купец:] А, бач, дзед, дзе Ульяна? [Майчанка. Тодар сядзіць нерухома.] Сядзіць як святы турэцкі.* Родзевіч. *Атрад у Сасновічах фактычна адпачывае месяц. А ў нас тут вунь уцякаць пачалі. І разбягуцца, калі будзем сядзець як святыя.* Навуменка.

*СВЯТЫМ* ● **СВЯТЫМ ДУХАМ.** Гл. духам.

*СВЯТЫХ* ● **СВЯТАЯ СВЯТЫХ** <*чаго*>. Гл. святая.

**ХОЦЬ СВЯТЫХ ВЫНОСЬ.** Гл. вынось.

*СВЯТЫЯ* ● **НА СВЯТЫЯ НІГДЫ.** Гл. нігды.

*СВЯЦЕЙШЫ* ● **СВЯЦ`ЕЙШЫ ЗА П`АПУ Р`ЫМСКАГА**. *Кампанент састаўн. імен. ці складанага імен. вык. Разм. Неадабр.* Такі, што занадта строга прытрымліваецца пэўных ідэалаў, правілаў, установак і пад. — *Чакай-чакай, а што тут за ўмовы патрэбны? Давай разбяромся... — Ды не будзь ты свяцейшы за папу рымскага! — незадаволена паморшчыўся Салавейчык. — Нам трэба трымацца галоўнага. А галоўнае — гэта план!* Блакіт. *Наша дробнае чыноўніцтва, адчуваючы падтрымку з Мінска, рада было старацца, імкнулася быць «свяцейшым за папу рымскага», без аніякага рашэння, без апытвання насельніцтва пераводзіла беларускія школы на рускую мову навучання.* Законнікаў. *Нават апазіцыйны рух «Наша Украіна» заключыў з Саюзам правых сіл пагадненне аб супрацоўніцтве. Ці не хоча ГА «Адраджэнне» быць свяцейшым за папу рымскага?* «Нар. воля».

*СВЯЦІЦЬ* ● **СВЯЦ`ІЦЬ ВАЧ`АМІ (-ЫМА).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Аказаўшыся ў няёмкім становішчы, перажываць пачуццё сораму. *Але Міхалу непрыемна, бо й тут пан лаяўся дарэмна, а ён стаяў, свяціў вачамі перад людзьмі і леснікамі.* Колас. *Рыбы [Хведзька] у двор не прыносіў, спродваў дачнікам і адразу на беразе менш удачлівым рыбаловам, каму не хацелася свяціць вачыма, вяртаючыся з пустымі рукамі* Лужанін. **ПАСВЯЦІЦЬ ВАЧАМІ (-ЫМА).** *Зак. Я яго з сабою пацягну. Няхай там пасвеціць вачыма.* Крапіва. *Узялі мы Іванаву заяву, а Мірон пасля і кажа: «Не памацнее наш калгас ад такіх, як Мурашка. З голага, як са святога. Адзін толькі лік, што яшчэ на галаву больш». Ну, і прыйшлося яму пасля за гэтыя словы пасвяціць вачыма..* Брыль.

**СВЯЦ`ІЦЬ Г`ОЛЫМ Ц`ЕЛАМ (П`УЗАМ, З`АДАМ).** *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі бедна апранацца, насіць падраную вопратку. **Сін.**: трэсці трантамі. — *Некалі яму! — не тоячы злосці, сказала маці. —Як жа, у навуку кінуўся. Змоладу са школы ўцёк, дык цяпер даганяе. Дзеці свецяць голымі пузамі, а ён за кніжкі.* «Полымя». *Вот ты, Пятро, дзень і ноч ірвеш, баб сваіх пазаганяў, а як жывеш? Свеціш голым задам, як і я. Тыя самыя пасталы носіш. Што ты добрае бачыш?* Навуменка. *Яму не толькі гамаць, але і апранацца ў нешта патрэбна, каб не свяціць голым задам.* Чыгрынаў. *Мы, бабы з вёскі, хадзілі пасля вайны пехатой аж у Мінск. Насілі на камароўку табаку: бесарабку і мультанку – мяняць на адзежу... І даходзілі, і прыносілі хоць што,*

*каб і самому, і дзецям голым задам не свяціць.* Пташнікаў.

*СЕЗАМ* ● **СЕЗ`АМ, АДЧЫН`ІСЯ!** *Выкл. Функц. не зам.* Выказванне жартаўлівага заклінання, якое павінна дапамагчы без цяжкасцей адолець пэўную перашкоду. *—Бывайце здаровы, жывіце багата, — як чараўнічае «Сезам, адчыніся», сказала Валя.* Карпаў. *Не даверся, прашу я, чужым галасам, што мой покліч пяроймуць наўмысна. Адчыніся, Сезам, адчыніся, Сезам, сэрца любага мне, адчыніся!* Паўлікава.

*СЕЙ* ● **Х`ОЦЬ Р`ЭПУ С`ЕЙ.** *Толькі ў гэтай форме. Разм. Неадабр.* **1**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн., выраж. словамі *рукі, ногі, вушы.* Вельмі брудныя. *Бацька не раз гаварыў, глянуўшы на яго [Міхасёвы] вушы: «Ну, брат, у цябе і вушы: хоць рэпу сей!»* Колас. *Гляджу: у кабіне Адамішын Вова! А здаецца ж, учора бегаў ён тут, па вуліцы, босы (ногі — хоць рэпу сей), ганяючы драцяным прутом кацёлку — іржавы абручык з вобада...* Свірка. *—І ногі ж у цябе! Хоць рэпу сей!.. —Я памыюся сёння, — мне стала сорамна перад Оляю.* Далідовіч.

**2**. *у чым. У безас. ужыв.* Вельмі брудна (у вушах). *—Калі вушы памыў, хай прыходзіць у школу. А то некаторыя заяўляюцца, а ў вушах хоць рэпу сей, — настаўнік шырока ўсміхнуўся, паказаўшы здаровыя белыя зубы.* Левановіч. *У тваіх вушах хоць рэпу сей.* Юрчанка.

*СЕКАНУЦЬ* ● **СЕКАНУЦЬ З ПЛЯЧА.** *Зак. да* **СЕКЧЫ З ПЛЯЧА.**

**СЕКАНУЦЬ ПАД КОРАНЬ** *каго, што. Зак. да* **СЕКЧЫ ПАД КОРАНЬ** *каго, што.*

*СЕКУНДА* ● **СЕК`УНДА Ў СЕК`УНДУ.** *Акал. Функц. не зам. Часцей ужыв. пры дзеясл. зак. тр.* Абсалютна дакладна, у дакладна ўстаноўлены час (адбываецца што-н.). **Сін**.: мінута ў мінуту. *Роўна ў дамоўлены час — секунда ў секунду — Пацей адчыніў дзверы кабінета.* «Звязда». *На дзень нараджэння [я] купіў яму электронны гадзіннік. Шафёру хранометр такі — знаходка. Ідзе секунда ў секунду, накручваць не трэба, а трасі яго і кідай — як хочаш!* Карпюк.

*СЕКУНДУ* ● **З СЕКУНДЫ НА СЕКУНДУ.** Гл. секунды.

**НА <АДН`У> СЕК`УНДУ.** *Акал. Разм.* На вельмі кароткі час, зусім ненадоўга (выйсці, змоўкнуць, затрымацца і пад.). **Сін**.: на адно імгненне вока; на <адну> мінуту (у 1 знач.); на капельку; на міг. *Кулікоўскі.. і нават на адну секунду не забываў пра вецер. Трымайся такога напрамку, што вецер дзьмуў яму ў твар злева.* Хацкевіч. *Міколка.. часам ажыўляўся на секунду, адрываўся ад слупа, але зноў гарэў запылены твар, бяссільна апускаліся рукі.* Лынькоў. *—Можна? — спытаў Корчык, затрымаўшыся на секунду*

*ў дзвярах.* Мік. Ткачоў.

**НІ НА СЕК`УНДУ.** *Акал. Разм. Ужыв. ў адмоўн. ск.* Нават на самы кароткі час. **Сін**.: ні днём ні ноччу; ні на <адну> мінуту; ні на міг. *Няма ніводнага моманту ў спектаклі, у які глядач не верыў бы. Ні на секунду не можа з'явіцца думка, што ты ў тэатры.* Чорны. *Ні на секунду не сумнявайся, што ты паможаш.* Новікаў.

**СЕКУНДА Ў СЕКУНДУ.** Гл. секунда.

*СЕКУНДЫ* ● **З СЕК`УНДЫ НА СЕК`УНДУ** *чакаць, павінен (можа) прыйсці, паказацца* і пад. *Акал. Функц. не зам.* У самы бліжэйшы час. **Сін**.: вось-вось (у 1 знач.); з гадзіны на гадзіну; з мінуты на мінуту; з часу на час (у 1 знач.). *[Андрэйку] з секунды на секунду маглі заўважыць, і тады не мінаваць бяды.* Кавалёў.

**НІ СЕК`УНДЫ.** *Акал. Функц. не зам. Ужыв. ў адмоўн. ск.* Нікольki (не траціць часу, не заставацца і пад.). **Сін**.: ні мінуты. *Не трацячы ні секунды, частка дэсантнікаў пранікла ў другі дом, а астатнія працягвалі весці агонь па вокнах верхніх паверхаў.* «Настаўн. газ.» *Я заяўляю, што ні секунды не застануся ні ва ўрадзе, ні ў ЦК, калі палітыка фраз возьме верх.* Шамякін.

*СЕКЧЫ* ● **С`ЕКЧЫ (СЯЧ`Ы) Г`ОРДЗІЕЎ В`УЗЕЛ** *<чаго>. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Смела і рашуча вырашаць якія-н. цяжкасці, супярэчнасці. *Урэшце і сам даследчык зразумеў, што не хапае яму той ніточкі, знайшоўшы якую можна разблытаць увесь клубок. Тут трэба было або шукаць гэтых кончыкаў ніткі, або секчы гордзіеў вузел.* Шамякін. **РАССЕКЧЫ (РАССЯЧЫ) ГОРДЗІЕЎ ВУЗЕЛ** *<чаго>. Зак. Толькі адна гэта нацыяналізацыя [школы] можа рассекчы гордзіеў вузел беларускай блытаніны.* Палуян. *Гісторыя пачалася па новаму кругу, і канца ёй не відно. Ці не час рассекчы, нарэшце, гордзіеў вузел?* «Звязда».

**С`ЕКЧЫ (СЯЧ`Ы, ПАДСЯК`АЦЬ, РУБ`ІЦЬ) С`УК, НА ЯК`ІМ СЯДЗ`ІШ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіць што-н. на шкоду сабе, рыхтаваць сабе непрыемнасць. *[Кунцэвіч:] Грэх? Я гэтага не баюся. Я начальных людзей баюся, якія сабе ж шкодзяць, сякуць сук, на якім сядзяць.* Караткевіч. *І там, дзе высіўся, красаваўся лес, свабодна гуляе вецер, які па вясне вельмі хутка выдзьме з палёў вільгаць і прынясе засуху... Ох, чалавек, чалавек... Сам сячэ сук, на якім сядзіць...* І.Капыловіч. «*Аўтарытэт!.. — думаў ён пасля пасяджэння парткома. — Падрываюць аўтарытэт, таму ўсё і распаўзаецца, як гнілая мешкавіна. Не разумеюць, што падсякаюць сук, на якім сядзяць...*» Карпаў. *Не марудзь, Ларыса, Падсякаеш сук, на якім сядзіш. Чым*

*даўжэй, прыгажуня, будзеш упарціцца, тым горш для цябе.* «ЛіМ». *План, аб'ём вытворчасці, працэнты, вал — во сукі, на якіх мы з табою сядзім! Толькі апошні ідыёт стане рубіць сук, на якім сядзіць...* Блакіт.

**С`ЕКЧЫ (СЯЧ`Ы, РУБ`ІЦЬ) З (З-ЗА) ПЛЯЧ`А.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Дзейнічаць неразважліва, неабдумана, прамалінейна. *Не пышыўся, не сек з пляча майстар Шарахоўскі, не разганяў людзей.* Шынклер. *А ў дэфензіве доўга не разважалі. Там прывыклі секчы з пляча* Машара. *Цяпер жа, з маім важкім «багажом», я не спяшаюся сячы з-за пляча, не спяшаюся з вывадамі: маўляў, дрэнны ўчынак — значыць, дрэнны чалавек.* «Звязда». *—З Журавінкам трэба разабрацца, што і як, пры якіх абставінах. Каб з пляча не рубіць. —Я не следчы, каб разбірацца, што і як і пры якіх абставінах.* Лобан. *Дырэктар Павел Андрэевіч Мельнік, як кажуць, рубіў з пляча. Што ён думаў, тое і імкнуўся правесці ў рашэннях. Крый божа, калі хто запярэчыць!* Гамолка. **СЕКАНУЦЬ (РУБАНУЦЬ) З (З-ЗА) ПЛЯЧА.** *Зак.*

**2**. Гаварыць рэзка, не выбіраючы слоў, занадта катэгарычна. *Напэўна, скажаце: напіўся і абы-што сячэ з пляча.* Лужанін. *— Бульбе не месца на Вожы! —З-за пляча сячэш, Яраслаў. Гэтак і я ўмею. А ты падумаў, што яна для нас — бульба?* Ярашэвіч. *Слухай, Пракоп Пракопавіч, я чалавек просты і люблю рубіць з-за пляча. Але твайго выступлення на апошнім бюро не разумею.* Шамякін. **СЕКАНУЦЬ (РУБАНУЦЬ) З (З-ЗА) ПЛЯЧА.** *Зак. Не зважаючы на тое, прыемна нам ці непрыемна, ён [Юрка] сekануў з пляча: —Мы танцуем толькі балет «Баран на лёдзе»!* Асіпенка. *Мабыць, цішыня і ўвага нібы пацягнулі Цімчука за язык, і ён тады рубануў з пляча, што не ўсе экіпажы добра падрыхтаваны да барацьбы за жывучасць караблёў, камдыў слабавата патрабуе з іх камандзіраў...* Левановіч.

**С`ЕКЧЫ (СЯЧ`Ы, РУБ`ІЦЬ, Р`ЭЗАЦЬ, ПАДРАЗ`АЦЬ) ПАД К`ОРАНЬ** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Канчаткова падрываць, наносіць непапраўную шкоду каму-н. ці чаму-н. *[Дзяркач:] Тартакі мае забаставалі ўсе — вось гэта ўжо нахабства! Яны сякуць пад корань абарону, не сёння-заўтра спыняцца чыгункі...* Клімковіч. *—Але ты, зямеля, сячэш мяне сёння пад самы корань. —Не хвалюйся. Калі мяне забіраюць, дык дадуць каго іншага.* Карамазаў. *Эстонцы малайцы, рубяць пад корань! Адзін гаспадар на зямлі. Святое правіла. І ім, гэтым гаспадаром, павінен быць хлебароб.* Дуброўскі. *—Дзе вашы байцы? Дзе вашы людзі? — пытаў маёр Гладункоў у палкоўніка. —Як вы*

*будзеце ваяваць? Чаму вы іх кінулі? —Ён рэзаў палкоўніка пад карань.* Дамашэвіч. *І каб [жыццё] пляскала ў гразь адно, то яшчэ нічога: гразь — не кароста, сорам — не дым, а то ж падразала пад карань, скручвала вяроўкамі ногі, заціскала вузел на шыі...* Мележ.

**СЕКАНУЦЬ (РУБАНУЦЬ, ПАДРЭЗАЦЬ) ПАД КАРАНЬ** *каго, што. Зак. А калі яшчэ ўстанова дзейнічае ў сферы мастацтва, можна смела пісаць, што хочаш — ніхто не здолее аспрэчыць. Відаць, архітэктурнае ўпраўленне трэста «секануць пад карань»...* Шамякін.

*СЕЛА* ● **НІ С`ЕЛА НІ П`АЛА.** *Акал. Разм.* Неспадзявана, нечакана і без якіх-н. падстаў. **Сін**.: без дай рады; без нічога ніякага (у 3 знач.); без усякага-якага; за будзь здароў (у 1 знач.); за пусты мех <а ў мяху смех>; за так (у 2 знач.); з ласкі на пацеху; не знай не ведай; ні з таго ні з сяго; ні з чаго ні з якага; так сабе (у 1 знач.). *[Знахарка:] А ты хочаш адразу, ні села ні пала, на ўсё свой час.* Галубок. *Пабылі б яшчэ тыдзень які. А то ні села ні пала ўзняліся, як тыя птушкі з перапуду, і толькі іх бачыў.* Пальчэўскі. *Я толькі хацеў табе сказаць: «Бачыш, які працавіты твой бацька?» А ты во ні села ні пала — і размякла.* Ермаловіч.

*СЕЛЯДЦОЎ* ● **ЯК СЕЛЯДЦ`ОЎ У Б`ОЧЦЫ** *ў чым. У безас. ужыв. Разм.* У вялікай колькасці. Пра мноства людзей у якім-н. месцы (у памяшканні, вагоне і пад.). **Сін**.: яблыку няма дзе ўпасці (у 1 знач.). *—Куды лезеш! — крычалі на Сяргея. —І так у вагоне людзей як у бочцы селядцоў.* Гурскі. *Пасажыраў было ў вагоне як селядцоў у бочцы.* Новікаў. *Людзей у яе [Любіным] магазінчыку — як селядцоў у бочцы.* І. Капыловіч.

*СЕМ* ● **АБЫХОДЗІЦЬ ЗА СЕМ ВЁРСТ.** Гл. абыходзіць.

**АДНЫМ МАХАМ СЕМ МУХ ЗАБІЯХАМ.** Гл. забіяхам.
**ВЫЦІСКАЦЬ СЕМ ПАТОЎ** *з каго.* Гл. выціскаць.
**ДРАЦЬ СЕМ СКУР** *з каго.* Гл. драць.
**САДЗІЦЦА НА СЕМ СУКОЎ.** Гл. садзіцца.
**СЕМ БОЧАК АРЫШТАНТАЎ** *нагаварыць.* Гл. бочку.
**СЕМ ВЁРСТ ДА НЯБЁС І ЎСЕ ЛЕСАМ.** Гл. вёрст.
**СЕМ КАРАБОЎ.** Гл. карабоў.
**СЕМ ПАТОЎ ВЫЙШЛА** *з каго.* Гл. выйшла.
**СЕМ ПАТОЎ ВЫЛІЦЬ.** Гл. выліць.
**СЕМ ПАТОЎ САГНАЦЬ.** Гл. сагнаць.
**СЕМ ПЯТНІЦ НА ТЫДНІ** *ў каго.* Гл. пятніц.
**СПУСЦІЦЬ СЕМ СКУР** *з каго.* Гл. спусціць.

*СЕМЯ* ● **КРАП`ІЎНАЕ С`ЕМЯ.** *Мн. не ўжыв. Устар. У ролі розных чл. ск. Разм. Пагард.* Чыноўнікі, якія займаюцца кручкатворствам і

хабарніцтвам. **Сін**.: канторскі пацук; папяровая душа; чарнільная душа. *Паліцыя.. сабак на варотах вешае. Чыноўнікі — крапіўнае семя, чарнільныя пацукі, п'яўкі антыхрыставы.* Караткевіч.

**НІ С`ЕМЯ НІ `ЕМЯ.** *У безас. ужыв. Разм.* Зусім няма нічога есці. Пра крайнюю беднасць. *І яна мучыцца, і бацька мучыўся. Бывала, ні семя ў яго ні емя...* Сіпакоў. *Пайшла замуж, а вясной у хаце ні семя ні емя.* Янкоўскі.

*СЕМЯРЫМ* ● **БОГ СЕМЯРЫМ НЁС ДЫ АДНАМУ ДАСТАЎСЯ.** Гл. бог.

*СЕМЯРЫХ* ● **АДНЫМ МАХАМ СЕМЯРЫХ МУХ ЗАБІЯХАМ.** Гл. забіяхам.

*СЕНА* ● **КОЗАМІ СЕНА ТРАВІЦЬ.** Гл. травіць.

**НЕ ІГОЛКА <У СТОЗЕ СЕНА>.** Гл. іголка.

**САБАКАМ СЕНА КАСІЦЬ.** Гл. касіць.

**С`ЕНА НА АСФ`АЛЬЦЕ.** *Часцей вык. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гараджанін у першым пакаленні, ахоплены настальгіяй па роднай вёсцы. *Ты, значыць, агітуеш за горад? Ну правільна. Што табе вёска? Пайзабытае мінулае. Ты даўно перастала быць «сенам на асфальце». Твой дом у горадзе.* Цяжкі. *Я не ару даўно, не сею, я — на асфальце сена жмут, але штораз душой хварэю, як тыя, сеюць што і жнуць.* Гіль. *На першы погляд здаецца, што В. Гігевіч прадаўжае так званую тэму «сена на асфальце», бліскуча пачатую калісьці М.Стральцовым, але на самай справе гэта не зусім так.* «ЛіМ». *Жыве ўва мне і бунінскі Міця з яго рамантычнай пакутнасцю, і мележаўскі Васіль з яго ўтравелай прыземленасцю... «Сена на асфальце» – вось і ўся мая гармонія.* Л.Галубовіч. *Б.Пятровіч не галосіць па страчанай ці адрынутай вёсцы, не пачуваецца ў горадзе прыслаўёным «сенам на асфальце».* «Дзеяслоў». *Ёсць тут [у кнізе] паяднанасць разгубленага, недарэчнага «сена на асфальце» з яго родавым, невынішчальным, аўтэнтычным вясковым пачаткам.* «ЛіМ».

*СЕНЕ* ● **НЕ ІГОЛКА <У СЕНЕ>.** Гл. іголка.

**САБАКА НА СЕНЕ.** Гл. сабака.

*СЕНЬКУ* ● **НЕ ПА СЕНЬКУ ШАПКА** <*для каго*>. Гл. шапка.

*СЕРАДА* ● **СЕРАД`А З-ПАД П`ЯТНІЦЫ** *відаць, вылазіць* і пад. *Дзейн. Разм. Іран.* Ніжняе адзенне з-пад верхняга (відаць, вылазіць і пад.). *Ото прыбралася! У цябе ж, Тэкля серада з-пад пятніцы відаць.* Янкоўскі. *Суседка наша, Карабуціха, да вайны бязладная жанчына, у якой заўсёды серада з-пад пятніцы вылазіла, аказалася практычнаю кабетай.* Арабей.

*Крывіцца, скрывіцца, касіцца* **ЯК (ШТО) СЕРАД`А НА П`ЯТНІЦУ.** *Акал. Разм.* З вялікім незадавальненнем, болем і пад. *[Галя:]*

*Штосьці наш брыгадзір скрывіўся як серада на пятніцу. Зірні, вунь на Гірачовай лаўцы сядзіць.* Махнач. *Праўда, Баброўскі косіцца цяпер на яго, Кастуся, як серада на пятніцу, але тое яго не турбуе...* Ярашэвіч. *—Чаго скрывіўся як серада на пятніцу? — сумеўся Міця. —Нядобрыцца ці што?* Адамчык. *Чаго ж ты кіслы такі? Скрывіўся што серада на пятніцу і маўчыш.* Калодзежны. *[Сушчэня] спытаў глухім пакрыўджаным голасам: — Чаго скрывіўся як серада на пятніцу? Можа, не падабаецца?* Ягоўдзік.

*СЕСЦІ* • **НІ СТАЦЬ НІ СЕСЦІ.** Гл. стаць.

**С`ЕСЦІ М`АКАМ.** *Зак. Разм. Неадабр.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пацярпеўшы няўдачу, аказацца ў няёмкім, смешным становішчы. **Сін**.: пашыцца ў дурні; садзіцца ў галош; садзіцца ў лужыну; сесці на бабы. *Селі макам усе тыя, што нас, вольны люд, не шкадуючы памыяў, аблівалі тут.* Купала. *Увага, браты-партызаны! Навіны прыйшлі з-пад Арла: сеў макам там Гітлер паганы, аж трасца яго затрасла.* Колас. *[Лось:] А хіба ж вы забыліся, як было з тым прэсам? Узяліся правіць самі і селі макам. На ўсё спец патрэбен, а ў нас іх мала.* Галубок.

**2**. Ужыв. пры дзейн., які абазначае назвы раслін. Спыніцца ў росце, звяць, засохнуць. *Глядзіць Трахім на шырокі палетак калгаснага аўса, потым крадком перабягае вачыма на свае лысыя горы, дзе нават грэчка і тая села макам.* Якімовіч. *—На ноч, мабыць, дождж збярэцца, — выказаў сваё меркаванне Міканор. —А ён такі і трэба ўжо, бо яшчэ калі з тыдзень не будзе — макам усё сядзе.* Сабаленка. *Пасеялі мы летась кукурузу. У адным месяцы яна ўзышла і расла нішто сабе, а ў другім як вытнулася, так і села макам — жоўтая, чэзлая.* Палтаран.

**3**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Прыйсці ва ўпадак, заняпасці. *—Каб такія ўсе былі, як ён, то іначай усё рабілася б. Можа, тут і калгасы ніштаватыя, калі ён кіруе? У нас то макам селі. —Усякія і тут.* Лобан.

**С`ЕСЦІ НА БАБ`Ы.** *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пацярпеўшы няўдачу, аказацца ў няёмкім, смешным становішчы. **Сін**.: пашыцца ў дурні; садзіцца ў галош; садзіцца ў лужыну; сесці макам (у 1 знач.). *Што хочаш, майстар без адукацыі. Станкі, наогул, ведае. А тут больш складана. Вось і сеў на бабы... Бегае па цэху, а што карысці...* Мыслівец.

**СЕСЦІ НА ГАЛАВУ** *каму. Зак. да* **САДЗІЦЦА НА ГАЛАВУ** *каму.*

**С`ЕСЦІ НА КАН`Я**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Звар'яцець, стаць псіхічна хворым. **Сін.**: з'ехаць з глузду (у 1 знач.); крануцца з розуму; сыходзіць з катушак; сыходзіць з кругоў;

сыходзіць з поля (у 1 знач.); сыходзіць з розуму (у 1 знач.). *Калі я ачомаўся канчаткова, то першае, што ўбачыў, быў цемнаскуры твар з вылупленымі сінімі вачыма. Негр? Ну, усё. Прыехаў. Інакш кажучы, сеў на каня. Бо як яшчэ растлумачыць з'яўленне негра тут, у Лёшкавай кватэры?* Кадзетава. *Я ведаю, пра мяне скажуць: Пашка звар'яцеў ад гарэлкі, «сеў на каня»...* «Маладосць».

**СЕСЦІ НА КАРАК** *каму, чый, каго. Зак. да* **САДЗІЦЦА НА КАРАК** *каму, чый, каго.*

**СЕСЦІ НА МЕЛЬ.** *Зак. да* **САДЗІЦЦА НА МЕЛЬ.**

**СЕСЦІ НА МЕСЦА** *чыё. Зак. да* **САДЗІЦЦА НА МЕСЦА** *чыё.*

**СЕСЦІ НА СВАЙГО <ЛЮБІМАГА> КАНЬКА.** *Зак. да* **САДЗІЦЦА НА СВАЙГО <ЛЮБІМАГА> КАНЬКА.**

**СЕСЦІ НА СЕМ СУКОЎ.** *Зак. да* **САДЗІЦЦА НА СЕМ СУКОЎ.**

**СЕСЦІ НА ТЫМ САМЫМ МЕСЦЫ.** *Зак. да* **САДЗІЦЦА НА ТЫМ САМЫМ МЕСЦЫ.**

**СЕСЦІ НА ХВОСТ** *каму, чый. Зак. да* **САДЗІЦЦА НА ХВОСТ** *каму, чый.*

**СЕСЦІ НА ХЛЕБ І ВАДУ.** *Зак. да* **САДЗІЦЦА НА ХЛЕБ І ВАДУ.**

**СЕСЦІ НЕ Ў СВАЕ САНІ.** *Зак. да* **САДЗІЦЦА НЕ Ў СВАЕ САНІ.**

**СЕСЦІ Ў ГАЛОШ.** *Зак. да* **САДЗІЦЦА Ў ГАЛОШ.**

**СЕСЦІ Ў ЛУЖЫНУ.** *Зак. да* **САДЗІЦЦА Ў ЛУЖЫНУ.**

**ЯК СТАР`ОЙ Б`АБЕ С`ЕСЦІ** *чаго. У безас. ужыв. Разм.* Вельмі мала. Звычайна пра зямлю. **Сін**.: з вераб'ёў нос (у 1 знач.); з жабіны прыгаршчы *чаго*; з камароў нос (у 1 знач.); з макава зерне; кропля ў моры <*чаго*>; курам на смех (у 3 знач.); на жабін скок (у 2 знач.); на заячы скок; на капейку; на макава зерне; на пальцах можна пералічыць *каго, што*; на панюх табакі (у 1 знач.); на шэлег (у 1 знач.); не поле насеяна *каго*; раз-два і ўсё *каго, чаго*; як кату; <як> кот наплакаў *каго, чаго. —Згараць яны няхай з грыбамі! Але ці будзе хлеб, часамі? —Антось пытае ўжо сярдзіта: —А колькі там насеем жыта? Зямлі як бабе старой сесці.* Колас. *А дзе ж я гэта ўсё панавязваю, калі зямлі ў мяне як старой бабе сесці?* Крапіва. *Колькі там таго логу, як старой бабе сесці. Крокаў пяць. Колькі там яго!* Чорны.

*СЕЎ* ● **ЯК НА СТ`О К`ОНЕЙ С`ЕЎ (С`ЕЛА, С`ЕЛІ).** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адчувае вялікую радасць, задавальненне. *Іван не прыйшоў, а прыбег, бадзёры, узрадаваны, як на сто коней сеў.* Новікаў.

*СЁЕ* ● **<І> С`ЁЕ І Т`ОЕ; Т`ОЕ ДЫ С`ЁЕ.** *Дап. Разм.* Самае рознае (гаварыць, пісаць і пад.). **Сін**.: то тое то сёе. *Век зжылі — нікому*

*вока не зацярушылі. Нам людзі і сёе і пюе, а мой жа Міхась... Суседзі ўсе нас ведаюць. Завошта ж, людцы мае... Што ж мы — нягоднікі ці арыштанты?* Баранавых. *Так і не сабралася Каця прыехаць: дыпломную пісала, тое ды сёе.* Місько. *Праграму для паступлення на рабфак ты добра ведаеш — не павінен зрэзацца. А прыедзеш — я пакажу табе тое ды сёе...* Каваль.

**НІ ТОЕ НІ СЁЕ.** Гл. тое.

*Пакуль* **ТОЕ ДЫ СЁЕ.** Гл. тое.

**ТОЕ-СЁЕ.** Гл. тое.

**ТО ТОЕ ТО СЁЕ.** Гл. тое.

*СЕЙ* ● **ТОЙ-СЕЙ.** Гл. той.

*СЁМАГА* ● **ДА СЁМАГА ПОТУ.** Гл. поту.

*СЁМАЯ* ● **СЁМАЯ ВАДА НА КІСЯЛІ.** Гл. вада.

**СЁМАЯ СПІЦА Ў КОЛЕ.** Гл. спіца.

*СЁМЫМ* ● **НА СЁМЫМ НЕБЕ** <*ад чаго*>. Гл. небе.

*СЁННЯ* ● **ВОЗ І СЁННЯ ТАМ.** Гл. воз.

**НЕ С`ЁННЯ-З`АЎТРА**; **НЕ СЯГ`ОННЯ-З`АЎТРА**; **НЕ С`ЁННЯ (СЯГ`ОННЯ) ДЫК (ТО) З`АЎТРА.** *Акал. Разм. Часцей ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр.* Вельмі хутка, у бліжэйшы час (будзе што-н). **Сін**.: гэтымі днямі (у 1 знач.); з дня на дзень (у 1 знач.); на <гэтых> днях (у 1 знач.); не цяпер дык у чацвер; рана ці позна. *Спеюць аўсы, ячмяні, не сёння-заўтра папросяцца пад серп.* Мурашка. *Не сёння-заўтра Чырвоная Армія ўдарыць па ўсім фронце, а тут мы паможам.* Грахоўскі. *Гэта ўсе мае сваякі, і не сягоння-заўтра яны, таксама як і я, дадуць пачаткі новым крынічкам.* Колас. *Не сягоння-заўтра Арсею прышлюць камсамольскі білет.* Калюга. *Думка аб фронце злавала яго. Не сёння дык заўтра ён усё ж спаткаецца з партызанамі.* Баранавых. *Не сягоння дык заўтра мы пачынаем з вамі новае жыццё.* Лынькоў. *І Боганчык падумаў: усё роўна падушаць іх у вёсцы, як порхавак. Не сёння то заўтра.* Пташнікаў. *[Зоська:] Не сягоння то заўтра пойдзеш па той сцежцы-дарожцы, па якой усе людзі ідуць.* Купала.

*СЁННЯШНІ* ● **СЁННЯШНІ ДЗЕНЬ.** Гл. дзень.

*СЁНЯШНІМ* ● *Жыць* **АДНЫМ СЁННЯШНІМ ДНЁМ.** Гл. днём.

*СЁРБАЦЬ* ● **С`ЁРБАЦЬ (ЕСЦІ) Л`АПЦЕМ Б`ОРШЧ.** *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гібець у беднасці, галечы, быць адсталым, некультурным. *[Дзед Цыбулька:] Транзістар. Самая найнавейшая сусветная навіна, яна тут, у мяне на далоні. Не той цяпер мужык пайшоў. Хопіць сёрбаць лапцем боршч!* Макаёнак. *Прыехаў і махае тутака кулакамі. Ці даўно лапцем боршч еў, га!* «Полымя».

*СІВОЙ* ● **ТРЫЗНЕННЕ СІВОЙ КАБЫЛЫ.** Гл. трызненне.
*СІВЫХ* ● **ДА СІВЫХ ВАЛАСОЎ.** Гл. валасоў.
*СІДАРАВУ* ● **ЯК СІДАРАВУ КАЗУ.** Гл. казу.
*СІКАСЬ* ● **С`ІКАСЬ-Н`АКАСЬ.** *Акал. Праст.* Не так, як трэба; наперакос (робіцца, адбываецца што-н.). **Сін**.: дагары дном; дагары нагамі (у 3 знач.); шыварат-навыварат. *Цяпер ідзе ўсё сікась-накась з-за высакоснага року! Хутка з-за яго зноў заладзяць дажджы, вятры, і ўсе пасевы палягуць — от успомніце маё слова!* Карпюк. *— Маці з Магілёўскай губерні, бацька — тутэйшы, са старавераў. — Яно і відаць, што і старым жывеш, і новым — і ўсё не так, сікась-накась. —Кружлік зноў крутнуўся на ўслончыку.* Масарэнка.
*СІЛ* ● **ВЫБІВАЦЦА З СІЛ.** Гл. выбівацца.

**З АП`ОШНІХ (АСТ`АТНІХ) С`ІЛ.** *Акал. Функц. не зам.* З гранічным напружаннем (рабіць што-н.). **Сін**.: аж пуп трашчыць; ва ўсе лапаткі (у 2 знач.); высалапіўшы язык (у 3 знач.); з апошняга; з усёй сілы (у 1 знач.); з усіх жыл (у 1 знач.); з усіх чатырох (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 1 знач.); на поўную сілу (у 1 знач.); на ўсю моц (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 1 знач.). *Сядзелец прачытаў думку ўрадніка і бараніўся з апошніх сіл.* Колас. *А тут каняка, потная ўся чыста, з апошніх сіл цягнула поўны воз.* Звонак. *[Сотнікаў] і сам стараўся з астатніх сіл як надалей адбегчыся ад таго пагорка, ды ззаду ледзь не залпам ураз бабахнулі стрэлы.* Быкаў.

**З УСІХ СІЛ.** Гл. сілы.

**НАБІРАЦЦА СІЛ.** Гл. набірацца.
*СІЛА* ● **НЯЧ`ЫСТАЯ С`ІЛА.** *Мн. не ўжыв. Часцей дзейн. ці дап. Разм.* Чорт, д’ябал. **Сін**.: нячысты дух. *Дзед Талаш, напэўна, і сам не адказаў бы сабе, каго яму болей страшна: нячыстай сілы, вера ў якую ўсё ж такі тлелася дзесь у закарвашках дзедавай душы, звера ці ліхога чалавека ў вобразе польскіх жалнераў.* Колас. *Ходзяць гаворкі, што ў карчме жыве нячыстая сіла.* Баранавых. *[Міхась:] Выходзіць, вы ў бога верыце, а кажуць жа, што з нячыстай сілай звязаны.* Козел.

**НЯЧ`ЫСТАЯ <С`ІЛА> Г`ОНІЦЬ (ПРЫГН`АЛА)** *каго. У безас. ужыв. Праст.* Хто-н. недарэчы, не ў пару прыходзіць, з’яўляецца. Выказванне незадавальнсння ў сувязі з прыходам нежаданага госця, наведвальніка. **Сін**.: ліха гоніць *каго*; ліха нясе *каго*; нялёгкая гоніць *каго*; нялёгкая нясе *каго*; нячыстая <сіла> нясе *каго*; нячысцік нясе *каго*; трасца нясе *каго*; халера нясе *каго*; чорт гоніць *каго*; чорт нясе *каго*. *—От я табе зараз так дам папружку, што век вечны памятацьмеш яе смак! — абазваўся Скуратовіч. —Гоніць цябе нячыстая сіла сюды...* Чорны. «*Каго гэта ў такую рань гоніць*

*сюды нячыстая сіла? — падумаў [Язэп].* А.Марціновіч. *—Пан, стшэляць не тшэба. —А чаго цябе нячыстая сюды прыгнала? —І Парчук замахнуўся прыкладам.* Грахоўскі.

**НЯЧ`ЫСТАЯ С`ІЛА Н`ОСІЦЬ (НАС`ІЛА)** *каго дзе. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Хто-н. недарэчы ходзіць, бадзяецца, ездзіць дзе-н. **Сін**.: каланіца носіць *каго дзе, калі*; ліха носіць *каго дзе*; нялёгкая носіць *каго дзе*; нячысцік носіць *каго дзе*; халера носіць *каго дзе*; хвароба носіць *каго дзе*; чорт носіць *каго дзе*; чэрці душаць *каго дзе. [Петрунея] ускінула на сябе толькі джэмпер і хустку, выбегла з хаты. Спачатку да варот — дзе яго носіць нячыстая сіла?* Міську. *—Коўзанкі табе захацелася, носіць цябе нячыстая сіла ў такое ліхалецце! — прытворна сярдзіта, як для застрашэння, накінулася Грыпіна на сына.* Капусцін. *Паробіш трохі — і далей, і далей. Я і ў Краснаярскім быў. Дзе мяне нячыстая сіла не насіла?* Грахоўскі.

**НЯЧ`ЫСТАЯ <С`ІЛА> НЯС`Е (ПРЫН`ЕСЛА)** *каго. У безас. ужыв. Праст.* Хто-н. недарэчы, не ў пару прыходзіць, з'яўляецца. Выказванне незадавальнення ў сувязі з прыходам нежаданага госця, наведвальніка. **Сін**.: ліха гоніць *каго*; ліха нясе *каго*; нялёгкая гоніць *каго*; нялёгкая нясе *каго*; нячыстая <сіла> гоніць *каго*; нячысцік нясе *каго*; трасца нясе *каго*; халера нясе *каго*; чорт гоніць *каго*; чорт нясе *каго. Рыгор насцярожана прыслухоўваецца. Зноў бразгаюць. —Каго ж гэта нясе яшчэ нячыстая сіла?* Крапіва. *[Анатоль:] Некага ж нясе сюды нячыстая сіла.* Козел. *І хто там такі прыехаў?.. Каго там нячыстая сіла прынесла?* Мурашка. *—Нячыстая нашага кватаранта, Лёша, прынесла, — сказала яна [Зося].* Карпаў. *—Каго ж там прынесла нячыстая... — спрасонку незадаволена прабурчаў ён [Кунцэвіч].* Блакіт.

**НЯЧ`ЫСТАЯ С`ІЛА СЯДЗ`ІЦЬ** *у кім. У безас. ужыв. Праст. Адабр. і неадабр.* Хто-н. мае незвычайныя здольнасці, уменне, сілу і пад. **Сін**.: чорт сядзіць *у кім. [Пан Яндрыхоўскі:] Конніца Будзённага прарвала фронт і зайшла ў тыл нашым. [Ксёндз:] Ратуй мяне, божа!.. Нячыстая сіла сядзіць у гэтых людзях.* Крапіва. *[Арсень] думаў, якая нячыстая сіла сядзіць у гэтых хлопцах, сабраных разам?* Каваленка. *Незразумелы гэта быў чалавек. «Нейкая нячыстая сіла сядзіць у ім», — гаварылі людзі.* Няхай.

**ЦЬФ`У ТЫ НЯЧ`ЫСТАЯ С`ІЛА.** *Выкл. Праст.* Вокліч прыкрасці, незадаволенасці, расзлаванасці і пад. **Сін.**: авохці мне; ёлкі зялёныя; ёлкі-маталкі; ёлкі-палкі; ё-маё; фу ты <ну-ты>; халера ясная; цьфу ты <чорт>; чорт бы яго ўзяў; чорт вазьмі; чорт ведае што такое. *Цьфу ты нячыстая сіла! Хай будзе па-твойму.* Іпатава. *Крутну [спінінг] колькі разоў і стоп – ні з месца... – Цьфу ты нячыстая сіла, – узлаваўся ён. –*

*Відаць, за калоду зачапіў на дне...* Ігнаценка.

**ЯК`АЯ НЯЧ`ЫСТАЯ С`ІЛА.** *У знач. дзейн. Праст. Неадабр. Часцей ужыв. ў пытальных ск.* Хто (робіць, зробіць што-н.). **Сін**.: які нячысцік; які чорт. *Казік круціў галавой і не разумеў: «Якая нячыстая сіла ўключыла матор? Хто кіруе лодкай?»* Шыловіч.

*СІЛАМІ* ● **ЗБІРАЦЦА З СІЛАМІ.** Гл. збірацца.

**НІЯКІМІ СІЛАМІ.** *Акал. Функц. не зам.* Ужыв. ў адмоўн. ск. Ніяк, ні пры якіх умовах. **Сін**.: ні божа мой (у 2 знач.); ні за што; ні за што на свеце; ні за якія грошы; ні ў жысць; ні ў якім разе. *Пакуль от брыгадзірам працую. Урос я, братачка, у гэтую зямлю, цяпер ніякімі сіламі не вырвеш.* Ваданосаў.

**УС`ІМІ С`ІЛАМІ.** *Акал. Функц. не зам.* Любымі сродкамі, спосабамі, прыкладаючы ўсе намаганні (рабіць, зрабіць што-н.). *Я хацеў усімі сіламі забыць аб сваёй гаспадарцы, аб Такароўчыне.* Бядуля. *Вайна закончыцца. Мы пераможам. Усімі сіламі наляжам на прамысловасць...* Мыслівец. *Чуткі пра баявыя дзеянні партызан даходзілі і да вязняў гітлераўскіх лагераў, і, натуральна, многія палонныя ўсімі сіламі стараліся вырвацца ў лес.* Шыцік.

**УС`ІМІ С`ІЛАМІ ДУШ`Ы.** *Акал. Функц. не зам.* Вельмі моцна, горача, палка (любіць, ненавідзець і пад.). **Сін**.: усімі фібрамі душы. *Займальна расказваў Томаш Гёрыч пра гісторыю Венгрыі, якую, адчувалася, ён любіць усімі сіламі душы.* Праскураў.

*СІЛАХ* ● **НЕ Ў С`ІЛАХ.** *Кампанент дзеясл. вык. Функц. не зам. Ужыв. ў спалучэнні з інф.* Не магчы, не мець магчымасці (зрабіць што-н.). *Настаў такі час, што пралітыя слёзы перапоўнілі неба і паліліся назад на зямлю. Не ў сілах было само неба стрымаць тыя слёзы.* Колас. *[Міхаіл Фёдаравіч:] На жаль, мы не ў сілах вярнуць яму жыццё.* Крапіва. **У СІЛАХ.** З супрацьлеглым знач. *Патрыятычныя маніфестацыі... Для каго і каму яны патрэбны? Чыё пачуццё яны ў сілах распаліць?* Гартны.

**У С`ІЛАХ** *чыіх. У знач. вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. У меру чыіх-н. магчымасцей, здольнасцей. *[Даніла:] Але я дарую вам жыццё, калі вы зробіце адну рэч. [Пані Яндрыхоўская:] Калі гэта ў маіх сілах.* Крапіва. *Абяцаю цвёрда і зраблю ўсё, што будзе ў маіх сілах.* Дамашэвіч.

*СІЛЕ* ● **НЕ ПА С`ІЛЕ** *каму. Вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Не адпавядае чыім-н. магчымасцям, здольнасцям і пад. **Сін**.: не на *чые* зубы; не па зубах *каму, чыіх*; не пад сілу *каму (у 2* знач.). *Паспрабуем. Але, здаецца мне, — аднаму калгасу гэта будзе не па сіле.* Шамякін. *Жаўтыху, вядома, не па сіле такія малюнкі, бо хоць ён і камандуе разлікам, аднак, здаецца,*

*мае самую нізкую ад усіх нас адукацыю — два ці тры класы.* Быкаў. *Сумленнем не грашы, што справа не па сіле: ты робіш для душы — на ўсё яе раскрылле.* Гаўрусёў. **ПА СІЛЕ** *каму.* З супрацьлеглым знач. *Гарэнка вырашыў, што адна работа яму па сіле, работа вартаўніка.* Вышынскі.

**У <С`АМАЙ> С`ІЛЕ.** *Вык. і азн. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У стане фізічнага і духоўнага росквіту. *Цесляры — дзесятка пайтара моцных, у самай сіле дзядзькоў — часалі склюдамі бярвенне.* Навуменка. *Хата яго была прасторная, добра і моцна зробленая хата, калі Даніла яшчэ быў у сіле.* А.Жук. *І ходзіць па калгасу здаровы, у самай сіле чалавек без аніякай справы, чакаючы якой-небудзь загадчыцкай пасады.* Палтаран.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. неадуш. прадмета (тыпу: *сад, лес, дуб, цыбуля).* У найвышэйшай ступені развіцця, росквіту. *Цяпер кляны ў самай сіле.* Баранавых. *Сад іхні — па другі бок вуліцы. Малады яшчэ сад, у самай сіле.* Гіль.

**3**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета *(вясна, зіма, дзень* і пад.). У разгары. *Дзень быў у самай сіле.* Чорны. *Так, зіма была яшчэ ў сіле.* Шамякін.

*СІЛУ* ● **НАБІРАЦЬ СІЛУ.** Гл. набіраць.

**НА П`ОЎНУЮ С`ІЛУ (М`ОЦ).** *Акал. Разм.* **1**. З вялікім напружаннем, інтэнсіўнасцю (рабіць што-н.). **Сін**.: аж пуп трашчыць; ва ўсе лапаткі (у 2 знач.); высалапіўшы язык (у 3 знач.); з апошніх сіл; з апошняга; з усёй сілы (у 1 знач.); з усіх жыл (у 1 знач.); з усіх чатырох (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 1 знач.); на ўсю моц (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 1 знач.). *[Жонка] лічыла, што яе муж працуе далёка не на поўную сілу...* М.Капыловіч.

**2**. Спаўна, як толькі можна (рабіць што-н., адбываецца што-н.). **Сін**.: на поўную катушку (у 3 знач.); на ўсе застаўкі (у 4 знач.); на ўсю жалезку (у 1 знач.); на ўсю іванаўскую (у 2 знач.); па самае годзе (у 1 знач.); па самае нельга; па самае не хачу. *Ужо чэрвень, а дрэвы яшчэ не распусціліся на поўную сілу.* Колас. *Канфлікт, які намячаецца ў пачатку п’есы.., не развіваецца на поўную моц, ды і не можа развівацца.* Крапіва. *Каб разагнаць сумныя думкі, Мікола пачаў углядацца ў акно вагона. А там на поўную сілу бушавала лета.* Ваданосаў.

**3**. Вельмі моцна (крычаць, раўці і пад.). **Сін**.: благім матам; з усіх жыл (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 3 знач.); на поўныя грудзі (у 2 знач.); на ўвесь голас (у 1 знач.); на ўвесь свет (у 1 знач.); на ўсе грудзі (у 2 знач.); на ўсе застаўкі (у 1 знач.); на ўсё горла; на ўсю глотку; на ўсю іванаўскую (у 1 знач.); на ўсю моц (у 3 знач.); немым

голасам; не сваім голасам; што ёсць духу (у 2 знач.); што ёсць сілы (у 3 знач.); іерыхонская труба (у 2 знач.); як недарэзаны; як рэзаны. *Бліщчастага рэпрадуктара, што вісіць на высокім слупе ля двухпавярховага будынка райвыканкома, днём не чуваць, затое вечарам ён раве на поўную сілу.* Навуменка.

**НА ЎСЮ СІЛУ.** Гл. моц.

**НЕ ПАД С`ІЛУ** *каму. Функц. не зам.* **1**. У *безас. ужыв.* Зусім немагчыма, вельмі цяжка (зрабіць што-н.). **Сін**.: не па каню воз; не па сеньку шапка <*для каго*>; не ў дугу <*каму*>. *То ты б, дзядзька, і гаварыў проста, што табе не пад сілу займацца гэтымі справамі, што адпачываць табе трэба...* Чорны. *Карацей кажучы, весці славесны паядынак з ксяндзом мне было не пад сілу.* Чарнышэвіч. *Дзяцей — як бобу, і самых гэтакіх бубноў, што аднаму даглядзець не пад сілу.* Крапіва. **ПАД СІЛУ** *каму.* З супрацьлеглым знач. *Хлапчыне дурнога быка пад сілу ўтрымаць у руках.* Непачаловіч.

**2**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Не адпавядае чыім-н. магчымасцям, здольнасцям і пад. **Сін**.: не на *чые* зубы; не па зубах *каму, чыіх*; не па сіле *каму. Калі справа не пад сілу, дык на плечы не бяры.* Лужанін. *Не пад сілу ў яго гады гэтая неспакойная, нялёгкая работа.* Палтаран. **ПАД СІЛУ** *каму.* З супрацьлеглым знач. *Такому калектыву, як наш, любыя задачы пад сілу.* «Звязда». *Для тых гарадоў, якія неабходны і нам патрэбны, прыйдуць на дапамогу германскія планіроўшчыкі накшталт прафесара Шпеера, якому пад сілу ўвязаць санітарна-гігіенічныя, эканамічныя, ваенна-палітычныя і эстэтычныя патрабаванні да гарадоў...* Лынькоў.

**ПАД С`ІЛУ**. *Акал. Разм.* Пад пахі дзвюма рукамі (браць, узяць, схапіць і пад. пры баруканні). *Адзін з хлопчыкаў прайграў бойку, пачаў румзаць, усё падцягваў штаны з абарванай шлейкай, выціраў рукавом слёзы і казаў: – Ён мяне пад сілу ўзяў…*Дайнека. [*Лепешаў*, с. 57: пад сілу].

**УБІРАЦЦА Ў СІЛУ.** Гл. убірацца.

**УВАХОДЗІЦЬ У СІЛУ.** Гл. уваходзіць.

**У С`ІЛУ** *чаго. У знач. прыназоўніка. Кніжн.* З-за чаго-н., у выніку чаго-н. *У сілу розных прычын, а можа, галоўным чынам традыцыяй, ВНУ практычна самастойна вядуць падрыхтоўку кадраў, уплыў навукова-даследчых інстытутаў тут малы.* «Звязда». *У далейшым Кіеўская Русь у сілу пэўных прычын распалася на паасобныя часткі.* Крапіва.

**УСТУПАЦЬ У СІЛУ.** Гл. уступаць.

**УСТУПЛЕННЕ Ў СІЛУ.** Гл. уступленне.

**Ц`ЕРАЗ (ПРАЗ) С`ІЛУ.** *Акал. Разм.* Перасільваючы сябе, стрымліваючы свае пачуцці (рабіць што-н.). **Сін**.: сцяўшы зубы. *Рыгор гаварыў цераз сілу, з натугай, быццам адпіхаў ад сябе нешта грузнае і неадчэпнае.* Крапіва. *—Ну, дык хочаш вучыцца? — Адказаць настаўніку трэба, ды і ў школу хочацца, і хлопец цераз сілу выціснуў: —Ыгы.* Брыль. *[Алесь] праз сілу ўсміхнуўся і адразу паспакайнеў.* Лецка.

*СІЛЫ* ● **АД С`ІЛЫ.** *Акал. Разм. Ужыв. перад лічэбн.* Самае большае, не больш чым (названая колькасць чаго-н.). *Чалавек быў яшчэ зусім малады, яму было ад сілы гадоў васемнаццаць.* Лынькоў. *Падумайце толькі, пяцьдзесят дзён запрацаваў за паўгода. Дадуць мне за іх ад сілы ну два пуды таго збожжа.* Мурашка. *Ён быў зусім яшчэ малады – ад сілы на гадоў пяць старэйшы за яго.* Блакіт.

**З УС`ЁЙ (-Я`Е) С`ІЛЫ (М`ОЦЫ)**; **З УС`ІХ С`ІЛ.** *Акал. Функц. не зам.* **1**. Напружваючы ўсю сваю энергію (рабіць што-н.). **Сін**.: аж пуп трашчыць; ва ўсе лапаткі (у 2 знач.); высалапіўшы язык (у 3 знач.); з апошніх сіл; з апошняга; з усіх жыл (у 1 знач.); з усіх чатырох (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 1 знач.); на поўную сілу (у 1 знач.); на ўсю моц (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 1 знач.). *Чалавек забег на першы двор і з усёй сілы застукаў кулакамі ў дзверы.* Баранавых. *Улева ад шчыта, на некаторай адлегласці, карыкатура: нехлямяжны чалавечак з усяе сілы цягне назад канвеер з напалову сабранай машынай.* Крапіва. *Іліко трымаўся за жалезную парэнчу з усяе моцы.* Самуйлёнак. *Нявідны вырываўся з усіх сіл, каб вызваліць рукі. Але сышчык трымаў яго моцна і стараўся паваліць.* Колас.

**2**. Вельмі хутка (бегчы, кідацца і пад.). **Сін**.: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы*; без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсіх парах, на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант**.: як чарапаха. *Якаў, не зводзячы з Амелі вачэй, адыходзіў задам усё далей і далей. Потым з усёй сілы пусціўся наўцёкі.* Лобан. *[Іван] упаў на быльнёг, перахапіў у руку пісталет і з усяе сілы кінуўся па бульбоўніку ўздоўж драцяной загародкі.* Быкаў. *Мяне апанаваў якісьці панічны страх, і я з усяе*

*моцы пабег дадому.* Карпюк.

**КОЛЬКІ <БЫЛО> СІЛЫ.** Гл. было.

**НАДРЫВАЦЬ СІЛЫ** *каго, чые.* Гл. надрываць.

**НІ`ЯКІЯ С`ІЛЫ.** *Дзейн. Функц. не зам. Ужыв. ў адмоўн. ск.* Абсалютна ніхто (не зробіць што-н.). **Сін**.: ні адзін сабака; ніякі чорт. *Пад чацвёртым малюнкам быў подпіс: «Ніякія сілы яе [рэвалюцыю] не ўтрымаюць, не пахаваюць!»* Арабей.

**ПАПАЛАМ СІЛЫ.** Гл. папалам.

**ШТ`О `ЁСЦЬ (БЫЛ`О) С`ІЛЫ (М`ОЦЫ).** *Акал. Разм.* **1**. З максімальным напружаннем (рабіць што-н.). **Сін**.: аж пуп трашчыць; ва ўсе лапаткі (у 2 знач.); высалапіўшы язык (у 3 знач.); з апошніх сіл; з апошняга; з усёй сілы (у 1 знач.); з усіх жыл (у 1 знач.); з усіх чатырох (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 1 знач.); на поўную сілу (у 1 знач.); на ўсю моц (у 1 знач.). *Родны колас што ёсць сілы жалі, жалі, малацілі і сабралі яго зерне дачыста ўсё на насенне.* Пушча. *Я і сам ведаю, што трэба паварочваць станіны, і напружваюся што ёсць сілы, але спяшаюся, і ўсё ідзе неўпапад.* Быкаў.

**2**. Вельмі хутка (бегчы, імчаць, ляцець і пад.). **Сін**.: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы*; без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсіх парах, на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант**.: як чарапаха. *[Данік і Саша] пабеглі што ёсць сілы па рэдкім сасняку.* Шамякін. *Шустры і галалобы хлапчук што было сілы бег па полі, размахваў рукою і яшчэ здалёку крычаў...* Каваль. *Ларыса што было сілы бегла дахаты.* Арабей. *Я што ёсць моцы прыпускаю да весніц, хоць і ведаю, што Рэкс зусім не куслівы, не тое, як ранейшы сабака.* Каліна.

**3**. Вельмі моцна (крычаць, галёкаць і пад.). **Сін**.: благім матам; з усіх жыл (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 3 знач.); на поўную сілу (у 3 знач.); на поўныя грудзі (у 2 знач.); на ўвесь голас (у 1 знач.); на ўвесь свет (у 1 знач.); на ўсе грудзі (у 2 знач.); на ўсе застаўкі (у 1 знач.); на ўсё горла; на ўсю глотку; на ўсю іванаўскую (у 1 знач.); на ўсю моц (у 3 знач.); немым голасам; не сваім голасам; што ёсць духу (у 2 знач.); іерыхонская труба (у 2 знач.); як недарэзаны; як

рэзаны. *Хлапчукі.. пачынаюць галёкаць у глыбіню халоднае царкоўнае пустэчы. Выюць ваўкамі, кукарэкаюць пеўнямі. У адказ царква таксама вые воўкам, кукарэкае пеўнем, галёкае што ёсць сілы.* Васілевіч. *Помню, бяжыць да мяне камандзір палка маёр Васіль Філатаў і што ёсць сілы крычыць: «Перамога! Мы — жывыя! Дайшлі да Перамогі!»* «Звязда».

*СІНІ* ● **НА СІНІ ПАЗНОГАЦЬ.** Гл. пазногаць.

*СІНІМ* ● **ГАРЭЦЬ СІНІМ ПОЛЫМЕМ.** Гл. гарэць.

*СІНІЦА* ● **СІН`ІЦА Ў РУК`АХ (У РУЦ`Э).** *Мн. не ўжыв. Часцей дап. Разм.* Што-н. пэўнае, канкрэтнае, супрацьпастаўленае чаму-н. няпэўнаму, ненадзейнаму, хоць і жаданаму. **Ант**.: журавель у небе. *І калі ўдасца дабіцца волі, то яна не абміне і селяніна: ён будзе мець хоць сініцу ў руках...* Якімовіч. *Раман Барысавіч.. шмат чаго перажыў і цяпер пэўна ведае, што, маючы сініцу ў руцэ, ні ў якім разе не трэба рвацца за жураўлём у небе...* Гігевіч. *Можа, і не спадзяецца [Антаніна] на нешта вялікае, доўгае, глыбокае, не гоніцца за жураўлём у небе, але чэпка трымае сініцу ў руцэ...* Далідовіч.

*СІНЬ* ● **НІ С`ІНЬ-П`ОРАХУ.** *Устар. Акал. Разм.* Зусім нічога (няма, не засталося і пад.). **Сін**.: голаму за пазуху; дзірка ад абаранка; ні грана; ні фіга; ні халеры; ні храна; ні чорта; ні шыша. *А там, глядзіш, солі — ні сінь-пораху. Цётка Пёкла памуляецца-памуляецца і скажа: —Вазьмі вось шчопаць, пасалі.* Сяркоў.

*СІНЯЯ* ● **СІНЯЯ ПАНЧОХА.** Гл. панчоха.

**СІНЯЯ ПТУШКА.** Гл. птушка.

*СІРАТА* ● **КАЗ`АНСКАЯ СІРАТ`А.** *Часцей ужыв. у адз. Часцей вык. Разм. Неадабр.* Той, хто прыкідваецца пакрыўджаным, няшчасным (каб разжаліць каго-н.). *І ўспомніў Васька, як хадзіў ён учора з камандзірам роты і Насцяй па свой заробак да гаспадара. Зніціўся той, збедніўся, ну проста сірата казанская, якія ў яго грошы, калі вайна, разруха...* Лынькоў.

*СІРАТОЙ* ● *Прыкідвацца, глядзець* **КАЗ`АНСКАЙ СІРАТ`ОЙ.** *Дап. Разм.* Пакрыўджаным, няшчасным. *Над галавой даўно вяжа кругі хітрая чайка, — прыкінулася казанскай сіратой — кі-гі! кі-гі! — быццам во ўжо ўспоруць гняздо, во ўжо загінуць яе піскляты.* Зарэцкі. *—Не чуў я, каб хто мяне гукаў, дапытваўся — не патрэбен я нікому... —Во-ёй, не прыкідвайцеся казанскаю сіратою...* Місько. *Ты што наводдалі стаіш? Каля мяне пастой! І не прыкідвайся ты мне казанскай сіратой!* Ставер. *Даў бог свята — гуляй! Што казанскай глядзець сіратой?* Колас.

*СІСЮ* ● **КУР`ЫНУЮ СІС`Ю І (ДЫЙ, ДЫ І) Т`УЮ НЕ ЎС`Ю** *ведаць,*

*<u>мець, атрымаць</u>* і пад. *Дап. Праст. Груб.* Нічога, зусім нічога не (ведаць, мець і пад.). **Сін**.: гула асмаленая; дулю з макам (у 1 знач.); дулю з маслам (у 1 знач.); трасцу з хваробай (у 1 знач.). *Усё лецейка старалася, макам, здаецца, рассыпалася, а мела выручку з тых ягад: курыную сісю і тую не ўсю.* Калодзежны. *Прафсаюз, праўда, абмінуць не можаш, бо, калі не будзеш яго членам ды захварэў — па бальнічным атрымаеш курыную сісю дый тую не ўсю...* Масарэнка. *[Цыганок:] Ну чаго ты муляешся, Змітрок Іванавіч?! Я ведаю... [Мароз:] Ведаеш ты курыную сісю ды і тую не ўсю!* Кобец. *—Я от ведаю... —Ведаеш ты курыную сісю дый тую не ўсю, — зняважліва скрывіў ва ўсмешцы твар Антон Хваля.* Шлег.

*СІЯМСКІЯ* ● **СІЯМСКІЯ БЛІЗНЯТЫ.** Гл. блізняты.

*СКАБЫ* ● **ЛІЧЫЦЬ СКАБЫ** *каму, у каго.* Гл. лічыць.

*СКАВАРАДЗЕ* ● **ЯК УЮН НА <ГАРАЧАЙ> СКАВАРАДЗЕ.** Гл. уюн.

*СКАЖАШ* ● **НІЧ`ОГА НЕ СК`АЖАШ.** *У знач. пабочн. сл. Разм.* Сапраўды. Выказванне згоды з чым-н., немагчымасці пярэчыць чаму-н. **Сін**.: апроч жартаў; нечага сказаць; няма чаго казаць (у 1 знач.); слоў няма; так <яно> і ёсць; што <і> казаць; што праўда то праўда. *Весела пачаўся дзень, нічога не скажаш! Паспрабуй пасля такога думаць пра архітэктуру!* Шамякін. *А пакіньце вы з гэтым настаўнікам! Які ён паляк! Ён жа з Бярозаўкі. Ведаю я і бацьку яго, і самога. З багатай хаты, нічога не скажаш.* Брыль.

*СКАЖЫ* ● **СКАЖ`Ы (-ЦЕ) КАЛ`І Л`АСКА!** *Толькі ў заг. л. Выкл. Разм.* Выказванне здзіўлення, абурэння і пад. **Сін**.: вось <яно> як!; вось <яно> што!; ну і ну! *Ніколі не паверыла б, што мой Сцяпан начэпіць калі-небудзь такую бабачку. Скажы калі ласка, які інтэлігент!* Шамякін. *—Гэта зойме да гадзіны! —Няўжо? Скажы калі ласка! —Што? Доўга? —Занадта, па-мойму.* Гартны. *[Перагуд:] Вы ўмееце быць добрай і шчырай, і тады я, здаецца, палажыў бы вам галаву на калені і слухаў бы без канца. [Наталля:] Скажыце калі ласка! Ну, нічога, гэта пройдзе.* Крапіва.

*СКАЗАЦЬ* ● **ДА СЛ`ОВА <СКАЗ`АЦЬ>.** *У знач. пабочн. сл. Функц. не зам.* У сувязі са сказаным, у дадатак да толькі што сказанага. **Сін**.: між іншым (у 2 знач.). *Да слова сказаць, вы таксама забыліся ля свірна свой мяшок.* Пянкрат. *Раблю я, да слова, усё на той жа ферме — загадчыцай.* Вышынскі. *А лавачку я новую зрабіў, трошкі далей ад таго месца, дзе раней была. Бліжэй да Замошак. Да слова, яны разрасліся, сталі яшчэ большыя, чымся былі.* Сачанка.

**ЖАРТЫ СКАЗАЦЬ.** Гл. жарты.

**Л`ЁГКА СКАЗ`АЦЬ.** *У знач. пабочн. сл. Разм.* Ужыв., каб падкрэсліць асаблівую важнасць, складанасць, цяжкасць чаго-н.

*Напрасткі выходзіла ўсяго кіламетраў восемдзесят. Лёгка сказаць, усяго, а паспрабуй дабрацца туды.* Грахоўскі. *—Можна перамяніць абставіны, паехаць адсюль. —Лёгка сказаць — паехаць. Я ж усяго год працую.* М.Капыловіч. *[Марыля:] Хто ў турме, дык вернецца, а вось хто на вайне — невядома. [Люба:] Лёгка сказаць — дзесяць гадкоў чакаць.* Козел.

**МОЖНА СКАЗАЦЬ.** Гл. можна.

**Н\`ЕЧАГА СКАЗ\`АЦЬ.** *У знач. пабочн. сл. Разм.* Сапраўды. Ужыв. для пацвярджэння праўдзівасці таго, пра што паведамляецца. **Сін**.: апроч жартаў; нічога не скажаш; няма чаго казаць (у 1 знач.); слоў няма; так <яно> і ёсць; што <і> казаць; штр праўда то праўда. *Ну, дрэвы! нечага сказаць; зямля, брат, сілы многа мае — такія вежы выганяе!* Колас. *—Я маю добрае месца, нечага сказаць, — аддаючы таварышу візітку, казаў Пятрусь. — Служба спакойная, і заработак не дрэнны.* Гартны.

**НЯМА ЧАГО СКАЗАЦЬ.** Гл. няма.

**СКАЗ\`АЦЬ СВА\`Ё СЛ\`ОВА** *<у чым>. Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Праявіць, паказаць сябе з якога-н. істотнага боку, аказаць уплыў на што-н. *Услед за іншымі яна [Марына] прывыкла думаць, што гэты дзікаваты студэнт некалі скажа сваё слова ў навуцы, прывыкла паважаць яго за гэта.* Радкевіч. *Разам будзем працаваць... Каб сказаць сваё слова ў мастацтве, каб выказаць тое, на што толькі ты здатны і нават на што не здатны.* Іпатава.

**ТАК СКАЗАЦЬ.** Гл. так.

**ЯК СКАЗ\`АЦЬ.** *У знач. пабочн.* сл. *Разм.* Выказванне вагання, немагчымасці ўпэўнена адказаць на пытанне, поўнасцю згадзіцца з суразмоўнікам. *—Будзем з пірагамі сустракаць! —Гэта яшчэ — як сказаць! — запярэчыў нехта поблізу. Насмешліва, басам. — Чаго — як сказаць? — А таго! Я думаю, што пірагі твае не спякуць да таго часу.* Мележ. *—Што, Міхед, у неспакоі, як ідуць там справы ў вас? —Як сказаць, пакуль што жывы. З просьбай я прыйшоў да вас.* Астрэйка. *—Колькі там тае цімафееўкі. Прыедуць з падборшчыкамі і машынамі — за дзень і скружаць табе яе. —Ну, як сказаць, — буркнуў Сцяпан.* А.Жук.

*СКАКАЛІ* ● **<ВЯСЁЛЫЯ> ЧОРЦІКІ СКАКАЛІ Ў ВАЧАХ** *чыіх, каго.* Гл. чорцікі.

*СКАКАЦЬ* ● **СКАК\`АЦЬ НЕ З Т\`ОЙ НАГ\`І.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіць што-н. не так, як трэба. *[Троцкі:] Зноў вы, містэр Гудман, не з той нагі пачынаеце скакаць. [Гудман:] Пардон.* Губарэвіч.

**СКАК`АЦЬ (ТАНЦАВ`АЦЬ) ПАД Д`УДКУ (ПАД Д`УДАЧКУ)** *чыю, каго. Незак. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ва ўсім падпарадкоўвацца каму-н., выконваць чыю-н. волю. **Сін**.: на цырлах *перад кім* (у 1 знач); хадзіць па адной маснічыне *ў каго*; хадзіць па нітачцы *перад кім, у каго*; хадзіць па струнцы *перад кім, у каго. [Пытляваны:] Мы вас за краты не пасадзім і на паншчыну не пагонім. [Насця:] А скакаць пад сваю дудку прымусіце.* Крапіва. *—Нешта не верыцца, каб ты вельмі пад бабскую дудку скакаў, — усміхнуўся брыгадзір.* Кудравец. *[Салавейчык] з пагардай ставіўся да падхалімаў і ў той жа час дамагаўся, каб усе навакол скакалі пад яго дудачку, па сутнасці, падхалімнічалі.* Блакіт. *Цяпер ужо многія ведалі, што эсэры танцуюць пад дудку князя Львова — верхавода Часовага ўрада.* Якімовіч. *Сама яна зарабляе не меней за любога мужчыну — так што, скажыце, навошта ёй танцаваць пад чужую дудку, навошта?..* Гігевіч.

*СКАЛІЦЬ* ● **СК`АЛІЦЬ З`УБЫ.** *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. *Неадабр.* Смяяцца, рагатаць; насміхацца з каго-н. **Сін**.: выскаляць зубы; зубы грэць на сонцы; прадаваць зубы; сушыць зубы. *—Ну і напужаў! — стаяў і скаліў зубы Дубавец.* М.Капыловіч. *Што зубы скаліце! – затрымцеў Сомік, сціскаючы ў руцэ плётку.* Крапіва.

**2**. *на каго. Пагард.* Абурацца, гневацца. *[Рудзін:] Сёння маю зямлю [адабралі], заўтра ў цябе шубу здзяруць, мужыку аддадуць, а ён на нас зубы скаліць.* Галавач.

*СКАНЧЫЛОСЯ* ● **ДЗВЕ ДЗЮРКІ Ў НОСЕ І СКАНЧЫЛОСЯ.** Гл. дзюркі.

*СКАРЫНКА* ● **СКАР`ЫНКА ХЛ`ЕБА.** *Мн. не ўжыв. Часцей дап. Разм.* Мізэрныя сродкі для існавання. **Сін**.: кавалак хлеба. *Адно, брат, тут: старацца трэба прыдбаць сваю скарынку хлеба, бо людзі кажуць: «Хлеб служачы не надта добры хлеб, — сабачы!»* Колас. *З-за крат паэт кідае жорсткія дакоры тым, хто з-за скарынкі хлеба пайшоў на згоду з прыгнятальнікамі і гатоў узлажыць на шыю тое ярмо, якое раней асмейваў.* Крапіва. *І адзін з эпізодаў ягонага скупога на скарынку хлеба, бяздомнага, адзінокага жыцця... вырастаў у рамантычную гісторыю з удзелам велікадушнага князя, прыгожай князёўны, адважнага капітана, вялікага карабля і яго самога, Тапурыя.* Самуйлёнак.

*СКАЦІЛАСЯ* ● **<ЯК> ГАРА З ПЛЕЧ <СКАЦІЛАСЯ>** *у каго, з чыіх.* Гл. гара.

*СКАЦІЎСЯ* ● **ЯК КАМЕНЬ З ПЛЯЧЭЙ СКАЦІЎСЯ** *ў каго.* Гл. камень.

**ЯК КАМЕНЬ З СЭРЦА СКАЦІЎСЯ** *ў каго.* Гл. камень.

*СКАЦІЦЦА* ● **СКАЦІЦЦА ЎНІЗ.** Гл. каціцца.

*СКАЧА* ● **ПА САБ`АКУ З Р`ОТА СК`АЧА (В`АЛІЦЦА)** *у каго. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Хто-н. брыдка лаецца. *Э-э, кардынал. Не брашы. Па цэламу сабаку ў цябе з рота скача. На гэткую чысціню брэшаш.* Караткевіч. *[Млынароўскі паліцай] палец на курку дзяржыць. І таксама гаворыць: «Будзеш знаць, як абгаворваць паліцэйскую сям'ю». А ў самога па сабаку з рота валіцца.* Сіпакоў. *—Ціха ты, боўдзіла! — спалохана азірнулася па баках старая Анюта. — Тут людзі прыехалі, гарадскія, вучаныя. А ў цябе з рота па сабаку скача...* Філіповіч.

*СКІБА* ● **АДР`ЭЗАНАЯ СК`ІБА (СК`ІБКА, Л`УСТА)**; **АДР`ЭЗАНЫ КАВ`АЛАК (АКР`АЕЦ).** *Адз. і мн. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Той, хто аддзяліўся ад сям'і, стаў самастойным, не патрабуе клопатаў. *У Кліма Пятручыка шасцёра дзяцей. Трое старэйшых — Іван, Алена і Каця — ад першае жонкі. Гэта ўжо адрэзаныя скібкі: у кожнага свая сям'я, свой клопат, па іх галава не баліць.* Місько. *—А Таська не свая? —Няхай выбачае, адрэзаная скіба!.. Няхай дзякуй скажа, што вывела ў людзі, на дарогу.* Аношкін.

**2**. Той, хто парваў сувязі з прывычным асяроддзем, спосабам жыцця, з прывычнай дзейнасцю. *[Святлана] пачувала сябе сярод такіх дарагіх і родных ёй людзей адрэзанай лустай.* «Маладосць». *Для яе [маці] не дачка — сыны аказаліся адрэзанымі кавалкамі.* Шамякін. *—Эт, адрэзаны акраец! — падумаў ён [Грыва] пра аддзеленага сына. —Што ён можа параіць?!* Мальдзіс.

*СКІБКА* ● **АДРЭЗАНАЯ СКІБКА.** Гл. скіба.

*СКІДАЦЬ* ● **СКІДАЦЬ З ПЛЯЧЭЙ** *што.* Гл. звальваць.

**СК`ІДАЦЬ З Н`ОГ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Вымушаць падаць. **Сін**.: валіць з ног *каго* (у 1 знач.). *—Бяры там невад з рыбакамі, паноў парадуй шчупакамі: галодны, можа, небаракі, а мо абрыдлі ім прысмакі — вяндліны, мяса і катлеты, павысыхалі, як шкілеты, іх вецер з ног чуць не скідае! —Марцін тут жарту падпускае.* Колас. *Вецер — гаварыць цяжка — дзьме з усяго поля на магілкі, скідае з ног.* Пташнікаў. **СКІНУЦЬ З НОГ** *каго. Зак.*

**СКІД`АЦЬ З С`ЭРЦА К`АМЕНЬ (ЦЯЖ`АР).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вызваляцца ад якога-н. цяжкага, гнятучага пачуцця. **СКІНУЦЬ З СЭРЦА КАМЕНЬ (ЦЯЖАР).** *Зак. Бывае, трэба слова сказаць, памагчы камень з сэрца скінуць.* Лужанін. *Запытанне гучыць так: давай пазвонім, растлумачым, скінем з сэрца цяжар.* «Полымя».

**СК`ІДАЦЬ <З Ш`ЫІ> ЯРМ`О.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са

знач. асобы ці сукупнасці асоб. Вызваляцца з-пад чыёй-н. улады. **Ант**.: надзяваць на сябе аброць. **СКІНУЦЬ <З ШЫІ> ЯРМО.** *Зак. [Андрэй:] Я рад, што адно ярмо з шыі скінуў, у другое — хоць рэж не палезу. Свабода даражэй заўсё для мяне.* Козел.

**СК`ІДАЦЬ М`АСКУ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Станавіцца самім сабой; пераставаць прытварацца, прыкідвацца. **Ант**.: іграць ролю (у 3 знач.); надзяваць <на сябе> маску (у 2 знач.); насіць маску *каго, чаго. Раптам [Стрыбульскі] скідае маску, хапае з кішэні пісталет, хоча стрэліць, але Дубовік з «палкоўнікам» і другім партызанам кідаюцца на яго, выкручваюць руку.* Мележ. *Варлен не хоча скідаць маскі. Дайно напяў на сябе тогу абыякавасці і расчаравання.* Навуменка. **СКІНУЦЬ МАСКУ.** *Зак. [Надзейка:] Натапырыўся: зноў, маўляў, практыканты, яны мне не патрэбны, у мяне план. Але абламала, хутка скінуў маску, стаў як шоўкавы.* Хадкевіч.

**СКІД`АЦЬ П`ЫХУ З С`ЭРЦА.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пераставаць настойваць на сваім, зміраццa з чым-н. **СКІНУЦЬ ПЫХУ З СЭРЦА.** *Зак. [Старац:] Нічога, пані гаспадыня, тут не выседзіш. Скінь пыху з сэрца ды ідзі адгэтуль. Не спадзявайся на помач сына.* Купала.

**СК`ІДАЦЬ (СК`ІДВАЦЬ) З РАХ`УНКУ** *каго, што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пераставаць улічваць што-н., пераставаць надаваць значэнне чаму-н. *Лідзе якраз такі і патрэбны. Ды нельга ж з рахунку скідаць і тое, што Сяргей не проста прыдатны жаніх, а яшчэ і гарадскі.* Асіпенка. *Нельга скідаць з рахунку таксама і суб'ектыўна-псіхалагічныя фактары чытацкага ўспрымання.* Мушынскі. *Сцяпан не надта верыў у падобныя спрыяльныя ўмовы. Але і скідваць з рахунку іх не рашаўся.* Шыцік. **СКІНУЦЬ З РАХУНКУ** *каго, што. Зак. Вельмі ж наблытаў тут таварыш са сваёй арыфметыкай і статутам. Узяў і скінуў з рахунку групы самаабароны, сувязных, упаўнаважаных па збору боепрыпасаў, зброі, вопраткі.* Карпаў.

*СКІДВАЦЦА* ● **СК`ІДВАЦЦА З РАХ`УНКУ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Пераставаць улічвацца. *Галоўнае патрабаванне да новых мадэляў — высокая эканамічнасць і малая таксічнасць. Пры гэтым, вядома, не скідваюцца з рахунку і іншыя фактары — скорасць, шумнасць, камфортнасць.* «Звязда». **СКІНУЦЦА З РАХУНКУ.** *Зак.*

*СКІДВАЦЬ* ● **СКІДВАЦЬ З РАХУНКУ** *каго, што.* Гл. скідаць.

*СШНУЦЦА* ● **СКІНУЦЦА З РАХУНКУ.** *Зак. да* **СКІДВАЦЦА З РАХУНКУ.**

*СКІНУЦЬ* ● **СКІНУЦЬ З НОГ** *каго. Зак. да* **СКІДАЦЬ З НОГ** *каго.*

**СКІНУЦЬ З ПЛЯЧЭЙ** *што. Зак. да* **СКІДАЦЬ З ПЛЯЧЭЙ** *што.*

**СКІНУЦЬ З РАХУНКУ** *каго, што. Зак. да* **СКІДАЦЬ З РАХУНКУ** *каго, што.*

**СКІНУЦЬ З СЯБ`Е В`ЕТХАГА АД`АМА.** *Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вызваліцца ад старых прывычак, поглядаў і стаць іншым чалавекам. — *Паколькі мы сабраліся для таго, каб назаўсёды скінуць з сябе адзежу «ветхага Адама», — азваўся Іван Тадорык, — дык давайце наўперад пакупаемся ў Нёмане, а наш сход не мядзведзь, у лес не ўцячэ.* Колас.

**СКІНУЦЬ <З ШЫІ> ЯРМО.** *Зак. да* **СКІДАЦЬ <З ШЫІ> ЯРМО.**

**СКІНУЦЬ МАСКУ.** *Зак. да* **СКІДАЦЬ МАСКУ.**

**СКІНУЦЬ ПЫХУ З СЭРЦА.** *Зак. да* **СКІДАЦЬ ПЫХУ З СЭРЦА.**

**ЯК ВОКАМ СКІНУЦЬ.** Гл. кінуць.

*СКЛАДАЦЬ* ● **СКЛАДАЦЬ ГАЛАВУ** *за каго, за што, дзе.* Гл. класці.

**СКЛАДАЦЬ ЗБРОЮ.** Гл. складваць.

**СКЛАД`АЦЬ КР`ЫЛЫ (КР`ЫЛЛЕ).** *Незак. Разм. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пераставаць дзейнічаць. **Сін**.: складваць рукі (у 1 знач.). *Трымайся, дарагі! Устань!.. Не трэба крылы складаць у барацьбе. Устань!* Куляшоў. **СКЛАСЦІ КРЫЛЫ (КРЫЛЛЕ).** *Мікіта бачыў Васю навылёт. Раіў сцішыцца, гвалту не паднімаць. Але Бліцкрыг крылаў не склаў. Толькі на гэты раз дзейнічаў хітрэй і асцярожней.* Навуменка.

**СКЛАДАЦЬ РУКІ.** Гл. складваць.

*СКЛАДВАЦЬ* ● **СКЛ`АДВАЦЬ (СКЛАД`АЦЬ) ЗБР`ОЮ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Спыняць узброенае супраціўленне, прызнаваць сябе пераможаным. **Сін**.: <і> лапкі ўгору; схіляць галаву (у 1 знач.); станавіцца на калені *перад кім.* **СКЛАСЦІ (ЗЛАЖЫЦЬ) ЗБРОЮ.** *Зак. Пайлаўцы згаджаюцца скласці зброю. Патрабуюць гарантыі.* Шамякін. *Не было выпадку, каб рыбалавецкі траўлер, стаўшы па неабходнасці ваенным караблём, склаў зброю перад ворагам, мацнейшым за яго ў шмат разоў.* Корбан.

**2**. Адмаўляцца ад працягу барацьбы, ад прынцыпаў абароны сваіх інтарэсаў. *Замкнуўся круг майго героя. Ну, што ж? Пачне ён круг другі, хоць трохі збіўшыся з нагі. Сказаць жа, ён не выйшаў з строю і рана складваць яму зброю — яшчэ не пройдзены шляхі.* Колас. *[Помазаў:] Я, апрача асноўнай работы, усё свядомае жыццё прысвяціў крытыцы, так сказаць, прыватнай крытыцы. І зараз не складаю зброі.* Раманаў. **СКЛАСЦІ (ЗЛАЖЫЦЬ) ЗБРОЮ.** *Зак. Леанід Рыгоравіч — тады мастацкі кіраўнік тэатра — не*

*разгубійся і не злажый зброі.* «ЛіМ».

**СКЛ`АДВАЦЬ (СКЛАД`АЦЬ) Р`УКІ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. *Часцей неадабр.* Пераставаць дзейнічаць. **Сін**.: складаць крылы. *[Агата:] А да працы быў ахвотнік, рук ніколі не складаў, зранку тупаў аж да ночы і ў самоце штось гадаў.* Колас. *Толькі не лянуйся, не шукай лёгкіх шляхоў, не мокні ў піўных і рэстаранах, не трасць часу на глупства, не складвай рук, дабудзь з сябе ўсе сілы, і ты нечага даб'ешся, — людзей ашчасліўіш і сам паспытаеш незямную радасць творчасці.* Карпюк. **СКЛАСЦІ (ЗЛАЖЫЦЬ) РУКІ.** *Зак. Супакойся, хлопчык мілы, рук сваіх мы не складзём. Паспрабуем свае сілы тут, дзе наш калгас і дом.* Астрэйка.

**2**. Паміраць. **Сін**.: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; адыходзіць у лепшы свет; ажаніцца з <сырою> зямлёй; выпростваць ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць <*каму*> (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); канькі адкідаць; лажыцца ў магілу; на паповы сані збірацца; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. *Так выйшла ўся моц з жыл, — араць не стала сіл, настаў канец дакукі... З касою смерць прыйшла, з сабой весць прынясла: пара складаці рукі!* Купала. **СКЛАСЦІ (ЗЛАЖЫЦЬ) РУКІ.** *Зак. [Ян:] Я ўжо стары, ужо столькі не пражыву, колькі пражыў. Як прыйдзецца злажыць рукі, то хто табе ў помач стане?* Каганец. *Яна [жонка] папракнула: – А праўда, чаго ты лезеш усюды? Калі ты сунімешся? – Калі рукі складу.* Шамякін.

*СКЛАДУ* ● **НІ СКЛ`АДУ НІ Л`АДУ.** *Акал. Разм.* Бесталкова, бязладна, без пэўнай логікі, без сувязі. **Сін**.: без толку (у 2 знач.). **Ант**.: з галавой (у 2 знач.); з розумам; з толкам. *[Хапун:] Балотны сапраўдны самабытны паэта, заўважылі, якая ў яго рыфма... [Вострыкаў:] Але зместу няма. Адным словам: ні складу ні ладу.* Гурскі. *І хто прыдумаў гэтыя гузікі ў пятліцы? Ні складу ні ладу.* Быкаў. *На свінаферме той, як кажуць людзі, ні ладу ні складу.* Бялевіч.

*СКЛАНЯЦЦА* ● **СКЛАН`ЯЦЦА НА ЎС`Е ЛАД`Ы.** *Незак. Разм.* Ужыв.

пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Часта і звычайна з асуджэннем упамінацца. *Поп і пападдзя, станавы, земскі, доктар і іх жонкі скланяліся на ўсе лады.* Гартны. *Весткі з Італіі скланяліся на ўсе лады, служачы тэмаю для агульных гутарак.* «Полымя».

*СКЛАНЯЦЬ* ● **СКЛАН`ЯЦЬ ВА ЎС`ІХ (У Р`ОЗНЫХ) СКЛ`ОНАХ** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Часта з асуджэннем гаварыць пра каго-, што-н. **Сін**.: скланяць на ўсе лады *каго, што. Настаўнік Якаў тры гады не мог пазбавіцца бяды — па мове шмат не паспявала. Калегі Якава скланялі ва ўсіх, як кажуць, склонах яго і стыль ягоны.* Скрыпка. *Тых, чые даўнютка песні спеты, нечага скланяць у склонах розных.* Непачаловіч. **ПРАСКЛАНЯЦЬ ВА ЎСІХ (У РОЗНЫХ) СКЛОНАХ** *каго, што. Зак.*

**СКЛАН`ЯЦЬ НА ЎСЕ ЛАД`Ы** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Часта і звычайна непрыхільна гаварыць пра каго-, што-н. **Сін**.: скланяць ва ўсіх склонах *каго, што. [Камар] скланяў на ўсе лады гучныя словы, як «рабочыя інтарэсы», «вярнейшы шлях», «да перамогі працоўных», «ідэалы будучага».* Гартны. *Толькі, ведаеце, прымірыўся я з гэтымі пісьмовымі цыдулкамі — мяне скланяюць на ўсе лады, а я і вухам не вяду: лайце!* Каршукоў. *Сферу бытавога абслугоўвання насельніцтва скланялі на ўсе лады.* «Звязда». **ПРАСКЛАНЯЦЬ НА ЎСЕ ЛАДЫ** *каго, што. Зак.*

*СКЛАСЦІ* ● **СКЛАСЦІ ГАЛАВУ** *за каго, за што, дзе. Зак. да* **СКЛАДАЦЬ ГАЛАВУ** *за каго, за што, дзе.*

**СКЛАСЦІ ЗБРОЮ.** *Зак. да* **СКЛАДАЦЬ ЗБРОЮ.**

**СКЛАСЦІ КРЫЛЫ.** *Зак. да* **СКЛАДАЦЬ КРЫЛЫ.**

**СКЛАСЦІ НА АЛТАР** *чаго, чый што. Зак. да* **КЛАСЦІ НА АЛТАР** *чаго, чый што.*

**СКЛАСЦІ РУКІ.** *Зак. да* **СКЛАДВАЦЬ РУКІ.**

*СКЛАЎШЫ* ● **СКЛ`АЎШЫ (ЗЛАЖ`ЫЎШЫ) Р`УКІ** <u>*сядзець, чакаць, стаяць*</u> і пад. *Акал. Разм.* Нічога не робячы, бяздзейнічаючы. **Сін**.: як святы <турэцкі>. *Калі жонка сядзе пасля работы на часіну, дык адразу і паднімае [Рыгор] крык, што яна сядзіць рукі склаўшы.* Чорны. *І ўсё ж не ўседзела б Ганна — страшна ісці ў дарогу, але яшчэ страшней сядзець вось так, склаўшы рукі, глядзець, як марнее, гіне на вачах малая.* Мележ. *Сядзяць паны, як мурашкі, на купіне сярод лужыны. Бяда прылучылася, нібы з грому. Але не век жа сядзець злажыўшы рукі, трэба ж даваць якую раду.* Колас. *Душна ў панскім двары. Доўга так да зары склаўшы рукі чакаць. Час збірацца, сябры!* Куляшоў. *А Лявон, не любіўшы.. жыць*

*злажыўшы рукі працаваў у гаспадара лепей яшчэ за маладога і быў, як скарб у хаце.* Бядуля. *[Гудовіч:] Лёс краіны вырашаецца, а мы склаўшы рукі будзем збоку наглядаць?* Крапіва. *Не хачу, не прывык склаўшы рукі хадзіць: я гарбар — працаўнік, я жыву — каб рабіць.* Гартны.

**СЯДЗЕЦЬ СКЛАЎШЫ РУКІ.** Гл. сядзець.

*СКЛОНАХ* ● **СКЛАНЯЦЬ ВА ЎСІХ СКЛОНАХ** *каго, што*. Гл. скланяць.

*СКОК* ● **НА ВЕРАБ'`ІНЫ СК`ОК.** *Акал. Разм.* Зусім нязначна, нямнога. *Хоць яна і была маладзейшая за Федзю, як кажуць, на вераб'іны скок, але абагнала яго ростам на цэлую пядзю.* Грамовіч. *Дзень прыбыў на вераб'іны скок, хоць усё яшчэ зіма пры ўладзе.* Лукша.

**НА Ж`АБІН СК`ОК.** *Разм. Іран.* **1**. *Вык. і азн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Вельмі малы (па даўжыні, плошчы). *Пазнасіў снапы, мой ты добры муж, з нашай пастаці — што на жабін скок, змалацілі іх мы ў два цапы.* Сіпакоў.

**2**. *Акал.* Вельмі мала. **Сін**.: з вераб'ёў нос (у 1 знач.); з жабіны прыгаршчы *чаго*; з камароў нос (у 1 знач.); з макава зерне; кропля ў моры <*чаго*>; курам на смех (у 3 знач.); на заячы скок; на капейку; на макава зерне; на пальцах можна пералічыць *каго, што*; на панюх табакі (у 1 знач.); на шэлег (у 1 знач.); не поле насеяна *каго*; раз-два і ўсё *каго, чаго*; як кату; <як> кот наплакаў *каго, чаго*; як старой бабе сесці *чаго*. *Да пайдня выпалала на жабін скок.* Янкоўскі.

**НА З`АЯЧЫ (ЗА`ЕЧЫ, З`АЙЦАЎ) СК`ОК**. *Акал. Разм.* Вельмі мала (звычайна пра неістотнае павелічэнне ці памяншэнне дзённага часу). **Сін.**: з вераб'ёў нос (у 1 знач.); з жабіны прыгаршчы *чаго*; з камароў нос (у 1 знач.); з макава зерне; кропля ў моры <*чаго*>; курам на смех (у 3 знач.); на жабін скок (у 2 знач.); на капейку; на макава зерне; на пальцах можна пералічыць *каго, што*; на панюх табакі (у 1 знач.); на шэлег (у 1 знач.); не поле насеяна *каго*; раз-два і ўсё *каго, чаго*; як кату; <як> кот наплакаў *каго, чаго*; як старой бабе сесці *чаго*. *У нядзелю, 27 чэрвеня, самы доўгі летні дзень – больш за 17 гадзін! – пасля кароткачасовага стаяння неўпрыкмет пакарацей на адну хвіліну. Як кажуць, на заечы скок.* «ЛіМ». [*Даніловіч*, с. 120: на зайцаў скок; *параўн. ва ўкр. м.*: на заячий скік.]

*СКОКАМ* ● **ДЗЕ БОКАМ ДЗЕ СКОКАМ.** Гл. бокам.

**ТО БОКАМ ТО СКОКАМ.** Гл. бокам.

**ХОЦЬ БОКАМ ХОЦЬ СКОКАМ.** Гл. бокам.

**ЦІ СК`ОКАМ ЦІ Б`ОКАМ.** *Акал. Разм.* Тым ці іншым спосабам.

**Сін**.: не кіем дык палкай (у 2 знач.); не сяк дык так; так ці інакш (у 1 знач.); хоць бокам хоць скокам; хоць так хоць сяк; ці так ці сяк (у 2 знач.). *[Захар:] Жыту вунь да сяўбы недалёка, пачакаеце — бульба згніе. Значыць, трэба — ці скокам ці бокам — падумаць пра шлункі свае.* Зуёнак.

*СКОНУ* • **ДА СК`ОНУ ДЗ`ЁН.** *Акал. Разм.* Да самай смерці (помніць, верыць, заставацца і пад.). **Сін**.: да апошняга дыхання; да веку; да канца дзён; да магілы. **Ант**.: *Да скону дзён забыць я не магу — руінаў дым, натоўп за хлебам у чаргу і крык: «Дзетдому ў першую чаргу!»* Іпатава. *У нас, у гарах, жанчына верная свайму каханню да скону дзён.* Савіцкі.

*СКОРУЮ* • **НА СКОРУЮ РУКУ.** Гл. руку.

*СКОЦІЦЦА* • **ЯЕЧКА З ГАЛАВЫ НЕ СКОЦІЦЦА.** Гл. яечка.

*СКРАБУЦЬ* • **КОШКІ ДУШУ СКРАБУЦЬ** *у каго, каму.* Гл. кошкі.

**КОШКІ НА ДУШЫ СКРАБУЦЬ** *у каго, чыёй.* Гл. кошкі.

*СКРОЗЬ* • **СКРОЗЬ ЗУБЫ.** Гл. зубы.

**ЯК СКРОЗЬ ЗЯМЛЮ ПРАВАЛІЎСЯ.** Гл. праваліўся.

**ЯК СКРОЗЬ СОН.** Гл. сон.

*СКРУТ* • **НА СКР`УТ ГАЛАВ`Ы.** *Акал. Разм.* **1**. Не думаючы, безразважна, неабачліва (рабіць што-н.). **Сін**.: заплюшчыўшы вочы; з бухты-барахты; з завязанымі вачамі; з кандачка; з налёту (у 3 знач.); з наскоку (у 2 знач.); на зламанне карка (у 1 знач.); на злом галавы (у 1 знач.); проста з моста. **Ант**.: з адкрытымі вачамі. *На што разлічвалі, на што спадзяваліся заядлыя пілсудчыкі, рынуўшыся на скрут галавы супраць Чырвонай Арміі на подступах да горада?* Вітка. *Не, немцы не такія дурні, каб на скрут галавы перці за імі ў гушчар, не ведаючы, што іх чакае за кожным кустом.* Місько.

**2**. Вельмі хутка, імкліва, стрымгалоў (кінуцца, імчацца, уцякаць і пад.). **Сін**.: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы,* без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсіх парах, на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант**.: як чарапаха. *Кінуцца вось так у кусты на скрут галавы і бегчы, .. куды глядзяць вочы.* Сачанка. *Жанчына не слухае звады, спяшае на*

*скрут галавы, каб думкам нялёгкім даць рады, каб дома па-бабску завыць.* Салтук.

*СКРУЦІЦЬ* ● **<САМ> ЧОРТ ГАЛАВУ СКРУЦІЦЬ** *<дзе, у чым>*. Гл. чорт.

**СКРУЦ`ІЦЬ ВЯЗ`Ы** *каму. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Загубіць, знішчыць каго-н. **Сін**.: адарваць галаву *каму* (у 1 знач.); адкруціць галаву *каму* (у 1 знач.); адпраўляць на той свет *каго*; адпраўляць у магілёўскую губерню *каго*; вымаць душу *з каго, каму* (у 2 знач.); вымотваць жылы (у 3 знач.); вымотваць кішкі (у 2 знач.); выпусціць дух (у 3 знач.); выпусціць кішкі <*каму*>; вытрасці душу *з каго, каму* (у 2 знач.); гнаць у магілу *каго*; заганяць на той свет *каго*; зводзіць са свету *каго* (у 1 знач.); зводзіць у магілу *каго*; звярнуць галаву *каму*; зжываць са свету *каго*; знімаць галаву *каму* (у 1 знач.); прыбіраць з дарогі *каго*; скруціць шыю *каму*. *Бязвольныя людзі — ох, якія яны часта бываюць упартыя ды злосныя! На кожным сваім капрызе могуць суседу вязы скруціць.* Караткевіч.

**СКРУЦ`ІЦЬ (ЗЛАМ`АЦЬ) САБ`Е ВЯЗ`Ы.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Скалечыцццa, загінуць. **Сін**.: звярнуць <сабе> галаву (у 1 знач.); зламаць <сабе> галаву (у 1 знач.); скруціць <сабе> галаву. *Хіба дрэва ў чым вінаватае? Лезе твой смаркач усюды, вось і дайграйся, каравуль яго, пакажы папругу, каб не забываў, а то яшчэ і вязы скруціць сабе.* І.Капыловіч. *Во-во, даўно б так, а то вязы сабе зломіш, ганяючы да нематы той мяч.* «Полымя».

**СКРУЦ`ІЦЬ Р`ОГІ** *каму. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Уціхамірыць, утаймаваць, прымусіць каго-н. скарыцца; сагнаць пыху, перамагчы. **Сін**.: абламаць рогі *каму*; падпілоўваць рогі *каму*; паказаць месца *каму*; паставіць на <сваё> месца *каго. —Калі ўжо гэты спакой настане? Калі ты яшчэ тут, то нічога, а як цябе няма, то хоць у пельку хавайся. —Ужо ўсё. Скруцім мы гэтай бандзе рогі.* Лобан. *Аляксей Пятровіч, як і кожны раз, усё спакойна расстаўляў на сваіх месцах: —Яшчэ не наш час, дарагі. Зрабі фільм, зрабі такі фільм, каб мы ім скруцілі рогі Клёнскаму.* Гігевіч.

**СКРУЦ`ІЦЬ <САБЕ> ГАЛАВ`У (Ш`ЫЮ).** *Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Скалечыцца, загінуць. **Сін**.: звярнуць <сабе> галаву (у 1 знач.); зламаць <сабе> галаву (у 1 знач.); скруціць сабе вязы. — *А няхай ты запустуй, такая грэбля. Галаву скруціць можна, — абазваўся нехта.* Мурашка. *[Канягін:] На Кубань хоча [фашыст] прабрацца. Крыўдна, Дзям'ян Дзям'янавіч. Да слёз крыўдна. Але скруціць ён сабе галаву. Мы яму скруцім.* Крапіва.

*Вядзіце нас пад Камень. Ноччу па гэтым лесе галаву скруціш.* Лобан. *А я тыдзень таму бачыў, як ён.. ляцеў на лыжах з такой стромы, дзе шыю скруціць было — раз плюнуць.* Караткевіч. — *Карабан кажа, што Гітлер, як і Напалеон, сабе шыю скруціць, — закончыў свой расказ Лёкса.* Кобец-Філімонава.

**СКРУЦІЦЬ У БАРАНОЎ РОГ** *каго.* Гл. гнуць.

**СКРУЦІЦЬ ШЫЮ** *каму. Зак. да* **СКРУЧВАЦЬ ШЫЮ** *каму.*

**Ч`ОРТУ Р`ОГІ СКРУЦІЦЬ.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зрабіць празмерна вялікую справу; выканаць вялікую работу. **Сін**.: варочаць горы *<з кім, з чым>*; пераварочваць свет (у 2 знач.). *Калі брат вырасце з яго, Захар будзе з бацьку. Будуць яны во якімі дужымі. «Утрох можна чорту рогі скруціць», — як кажа Заюхна.* Каваль. *[Бондар:] Калі правільна выкарыстаць тую сілу, якая ёсць, можна чорту рогі скруціць.* Гурскі. *Гэта было для нас як свята, і каб яно надышло, мы гатовы былі чорту рогі скруціць, не кажучы ўжо аб тым, каб вучыць як след урокі, палоць градкі на падсобнай гаспадарцы...* Радкевіч. *Гэта ж, знаеш-ведаеш., сі-іла! Цяпер яны [байцы] чорту рогі скруцяць, таму што як бы адчуваюць сваю віну, што вораг па нашай зямлі пайшоў...* Ваданосаў.

*СКРУЧВАЦЬ* ● **СКР`УЧВАЦЬ Ш`ЫЮ (ГАЛАВ`У)** *каму. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знішчаць, забіваць каго-н. **Сін**.: адарваць галаву *каму* (у 1 знач.); адкруціць галаву *каму* (у 1 знач.); адпраўляць на той свет *каго*; адпраўляць у магілёўскую губерню *каго*; вымаць душу *з каго, каму* (у 2 знач.); вымотваць жылы (у 3 знач.); вымотваць кішкі (у 2 знач.); выпусціць дух (у 3 знач.); выпусціць кішкі *<каму>*; вытрасці душу *з каго, каму* (у 2 знач.); гнаць у магілу *каго*; заганяць на той свет *каго*; зводзіць са свету *каго* (у 1 знач.); зводзіць у магілу *каго*; звярнуць галаву *каму*; зжываць са свету *каго*; знімаць галаву *каму* (у 1 знач.); прыбіраць з дарогі *каго*; скруціць вязы *каму.* —*У нас быў адзін гэтакі, што галовы ўсім скручваў, то з Сібір[ы] яшчэ не вярнуўся...* Лобан. **СКРУЦІЦЬ ШЫЮ (ГАЛАВУ)** *каму. Зак. А ведаеш, як будзе добра, калі ў Іспаніі скруцім шыю фашысцкім генералам.* Левановіч. *Халера на цябе, ці я табе, Альяш, не казаў, — ты яшчэ дажывешся, што яны табе галаву скруцяць за твае выдумкі?* Карпюк. *Надзея толькі на сваіх. Скруцяць галаву гэтаму паганцу Гітлеру — убачым свет.* Пальчэўскі.

*СКРЫВІЦЬ* ● **СКРЫВІЦЬ ДУШОЙ** *<перад кім, перад чым, для каго>. Зак. да* **КРЫВІЦЬ ДУШОЙ** *<перад кім, перад чым, для каго>.*

*СКРЫГАТАЦЬ* ● **СКРЫГАТ`АЦЬ ЗУБ`АМІ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Выяўляць

моцную злосць, нянавісць да каго-н. *Хай злыдні над намі скрыгочуць зубамі — любі сваю ніву, свой край.* Купала. *Зноў жа нашы ворагі скрыгочуць зубамі, але баяцца паткнуцца на нас, бо помняць грамадзянскую вайну.* Мележ.

*СКРЫЖАВАННЯХ* ● *Крычаць, расказваць, хваліць* і пад. **НА ЎС`ІХ СКРЫЖАВ`АННЯХ.** *Акал. Разм.* Усюды і беспярастанку. *Хутка пра ваяжы Кузьмічова пачалі расказваць на ўсіх скрыжаваннях...* «Вожык». *Калі чалавека хваляць на ўсіх скрыжаваннях, самая-самая пара яму спыніцца, агледзецца, задумацца: а якія яны, тыя недахопы, слабасці, якіх у яго чамусьці не заўважаюць?..* Адамовіч.

*СКРЫЖАВАЦЬ* ● **СКРЫЖАВАЦЬ МЯЧЫ** *<з кім>. Зак.* да **СКРЫЖОЎВАЦЬ МЯЧЫ** *<з кім>.*

*СКРЫЖОЎВАЦЬ* ● **СКРЫЖ`ОЎВАЦЬ МЯЧ`Ы (ШП`АГІ)** *<з кім>. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Горача спрачацца, даказваць, змагаючыся за што-н., адстойваючы чые-н. інтарэсы. **Сін**.: ламаць коп'і *<з-за каго, за што, з якой прычыны>. Ого, на чым так не па-брацку яны [Антось і Мікіта] скрыжоўваюць мячы: літаратуры і мастацтва іх сутыкнулі дзеячы!* Гілевіч. *І вось над галавой гэтага дарослага дзіцяці скрыжоўваюць шпагі польскія і рускія палемісты.* Мальдзіс. **СКРЫЖАВАЦЬ МЯЧЫ (ШПАГІ)** *<з кім>. Зак. Нам яшчэ давядзецца скрыжаваць мячы ў часе фарміравання Часовага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі.* Гурскі.

*СКРЫЖОЎВАЮЦЦА* ● **СКРЫЖОЎВАЮЦЦА МЯЧЫ** *дзе.* Гл. мячы.

*СКРЫНКУ* ● **У ДОЎГУЮ СКРЫНКУ.** Гл. скрыню

*СКРЫНЮ* ● *Адкладваць (адкласці)* **У Д`ОЎГУЮ СКР`ЫНЮ (СКР`ЫНКУ).** *Акал. Разм.* На няпэўна доўгі час (адкладваць што-н.). **Сін**.: да грэчаскіх каляд. *Смяшлівы лысы дзед.. расказвае, што ўзяў хабару, а справу адклаў у доўгую скрынку.* Каваль. *Сказана — зроблена, добрую справу не трэба адкладваць у доўгую скрынку, бо «адклад не ідзе ў лад».* Машара. *Дык давайце не адкладваць у доўгую скрыню, а паслязаўтра напакуем торбы харчамі, прыхопім грошыкаў ды разам і рушым у горад.* Лупсякоў.

*СКРЫНЯ* ● **СКР`ЫНЯ ПАНД`ОРЫ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Крыніца ліха, бедстваў. *Дзеля ілюстрацыі.. можна было б прывесці нямала прыкладаў з прапагандысцкай скрыні Пандоры...* «Полымя».

*СКРЫПАМ* ● **ЗА АДН`ЫМ СКР`ЫПАМ.** *Акал. Разм.* Заадно, разам з кім-н. (зайсці куды-н., выйсці адкуль-н.). *Першы ўстаў з лавы Іван Жыток. За адным скрыпам мужчыны пасунуліся з хаты.* Адамчык. *Разам з Маняю, за адным скрыпам, мы выходзім з Дубейкавай хаты.* Палтаран. *За адным скрыпам за ім [хлопцам] увайшла да*

*Банькоўскіх цёпла апранутая.. дзяўчына.* Калюга.

**З РЫПАМ І СКРЫПАМ.** Гл. рыпам.

**СА СКР`ЫПАМ.** *Акал. Разм.* Часцей ужыв. пры дзеясл.-вык. незак. тр. З вялікай цяжкасцю, вельмі марудна (рабіць што-н., робіцца што-н.). **Сін**.: з горам папалам; з грахом папалам (у 2 знач.); рыпам і скрыпам. *[Васіль Пятровіч] памятаў заўвагу Міхайлава аб рэзервных тэрыторыях, ведаў, што прыйдзецца павялічваць раён капітальнай забудовы, і па-ранейшаму са скрыпам выдзяляў участкі індывідуальным забудоўшчыкам.* Карпаў. *У Якаўлеўцы таксама пачнём заняткі, але рамонт там панскага палаца, які аддадзены пад школу, ідзе са скрыпам.* С.Александровіч. *Справы з хіміяй хоць і са скрыпам, але рухаліся.* Б.Стральцоў.

*СКРЫПКА* ● **П`ЕРШАЯ СКР`ЫПКА.** *Мн. не ўжыв. Функц. не зам.* **1**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Самая галоўная, найбольш уплывовая асоба ў якой-н. галіне, справе і пад. *Мікола слухаў, седзячы за сталом, і маўчаў, бо не ведаў, у чым справа. Зразумеў толькі, што першай скрыпкай з'яўляецца Кастусь.* Машара. *Хай не забываюць, што ў канторы ўсё ж першая скрыпка ён, дырэктар.* Гаўрылкін. *—Чаго яны чэпяцца да цябе? —Не ведаеш чаго? Помсцяцца, зайздросцяць! Кожны хоча першай скрыпкай быць*. Карпаў.

2. *Часцей дзейн.* Галоўная, кіруючая, вядучая роля ў чым-н. Сін.: першае слова. *Кашыну зараз патрэбен быў не звычайны поспех. Няважна, што ў гэтай падрыхтоўцы першая скрыпка належала не яму і многае рабілася насуперак яго волі.* Карпаў.

*СКРЫПКУ* ● **ІГРАЦЬ ПЕРШУЮ СКРЫПКУ** *ў чым.* Гл. іграць.

**ІГРАЦЬ ДРУГУЮ СКРЫПКУ** *ў чым.* Гл. іграць.

**СЫГРАЦЬ ПЕРШУЮ СКРЫПКУ.** Гл. сыграць.

*СКРЭБЦІ* ● **СКР`ЭБЦІ ЗА ДУШ`У (ЗА С`ЭРЦА)** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Непакоіць, трывожыць, хваляваць каго-н. **Сін**.: выварочваць душу *чыю, каму*; вярэдзіць душу *каму, чыю*; вярэдзіць рану *каму, чыю*; муціць душу *каму, каго*; пераварочваць <усё> нутро *ў каго*; пераварочваць <усю> душу *чыю, каму, каго*; труціць душу *каму. Хоць наўрад ці адно Дашына суседства, яе прытворства, паказная ўважлівасць і ласкавасць.. маглі так скрэбці за душу.* Шамякін. *Сцяпан ведаў, што паблізу, ля самай сажалкі, знаходзіцца Антось Дубіцкі і яшчэ ў розных месцах стаяць тры вартаўнікі, аднак за сэрца нешта скрэбла, не хацелася ні аб чым думаць.* Чарнышэвіч.

*СКУЛА* ● **СК`УЛА Ў БАК`У (ПАД Б`ОКАМ)** *<для каго>. Мн. не ўжыв. Вык. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці

абстр. прадмета. Вялікая, балючая перашкода, што раздражняе сваёй наяўнасцю. **Сін**.: бяльмо на воку <*каму, у каго, для каго*>; як скула <*для каго*>. *[Ахрэм] не рад быў, што зачапіў гаворкаю бродаўскі калгас. Гэты калгас для Ахрэма— скула ў баку.* Баранавых. *—Хадзем да старшыні, — сказаў Юзік. —Ён чалавек новы. Я яму раскажу, хто актывіст, а хто — скула пад бокам.* Чорны.

**ЯК СК`УЛА** <*для каго*>. *Вык. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Вялікая перашкода, што раздражняе каго-н. наяўнасцю ці прысутнасцю. **Сін**.: бяльмо на воку <*каму, у каго, для каго*>; скула ў баку <*для каго*>. *Я і сам бачу, братачка, што я тут як скула. Аб'язджай з гэтым трактарам.* Лобан. *Пясок гэты, парослы сіўцом, як скула быў для малінаўцаў.* Чарнышэвіч.

*СКУЛЕ* ● Наравіць, гадзіць **ЯК ЛІХ`ОЙ СК`УЛЕ.** *Акал. Разм.* Усяк, як толькі можна, вельмі старанна. *Вельмі ж свякроў ужо сібірная трапілася. Наровіш як ліхой скуле, а ёй усё нядобра!* Крапіва. *Колькі жыла, столькі і гадзіла як ліхой скуле то свякрусе, то заўвіцы.* Янкоўскі.

*СКУЛУ* ● **СК`УЛУ Ў Б`ОК** *каму. Выкл. Праст.* Выказванне рашучай нязгоды з кім-н. патрабаваннем, загадам і пад. **Сін**.: знайшоў дурня; нічога падобнага; няма дурных (у 1 знач.); трымай кішэнь шырэй; чорта з два (у 1 знач.), чорта лысага (у 1 знач.); як бы не так. *—Пасылаюць польскія генералы на нас войска; цэлы батальён, а за камандзіра паставілі пана Крулеўскага. Сказалі яму — што хочаш, а войска іхняе зніш усё да аднаго чалавека... —А скулу ім у бок! — вырваўся з партызанскай грамады голас, поўны злосці і абурэння.* Колас. *—Хэндэ хох! —Скулу ў бок! — крычу я і ва ўпор страляю з ракетніцы.* Быкаў.

*СКУРА* ● **<АДН`А> СК`УРА (ШК`УРА) ДЫ К`ОСЦІ.** *Вык. і азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. чалавека ці жывёліны. Вельмі худы, змарнелы. **Сін**.: скура ды арматура. *Схуднелага — адна скура ды косці — прывезлі каваля дамоў.* Гігевіч. *Сідор узяў ваўка за хіб, выхапіў з вады і ўкінуў у лодку. Лёгкі з зімы, з нядоеду, адна шкура ды косці.* Лобан. *Са шпіталя [Ахрэма] пусцілі памерці дамоў — чуў, што пра гэта між сабою ваенныя лекары гаварылі. Быў ён скура ды косці, а ў галаве ўсё звінела і лопалася нешта.* М.Капыловіч.

**СК`УРА (ШК`УРА) ГАВ`ОРЫЦЬ** *у каго, на кім. У безас. ужыв. Разм. Часцей неадабр.* Хто-н. залішне рухавы, неспакойны, няўрымслівы. **Сін.**: вада не трымаецца *на кім*; скура гарыць *на кім. Учора, дарэчы, Паўлюк выйшаў з цярпення, накрычаў на Томку, аблаяў і яе, Паўліну,*

*што дае дзіцяці патачку.., а ў тае шкура гаворыць, не ведае як і выпендрываецца, ажно на галаве ходзіць.* Дамашэвіч. [*Лепешаў*, с. 65: скура (шкура) гаворыць *на кім.*]

**СК`УРА ДЫ АРМАТ`УРА.** *Вык. Разм. Часта іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі худы, змарнелы. **Сін.**: <адна> скура ды косці. *Вар'яцтва! Пратэз, штучнасць! Трызненне нейкае! Здурнелі!.. Дык гэта ж псіх! І ты з ім у псіхапатку ператварылася! Паглядзі на сябе! Скура ды арматура!* Дудзюк. [*Лепешаў*, с. 69: <толькі, адна> скура (шкура) і (ды) арматура – 'вельмі худы, змарнелы'.]

**СК`УРА ПАШ`ЭРХЛА** *ў каго. Зак. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. пачаў адчуваць моцны страх, жах. **Сін.:** мурашкі забегалі па целе *ў каго, каго, чыім. У Клавы пашэрхла скура. Разгубілася – не ведала, што сказаць. А трэба нейкі ратунак! Каб уцякла?* Баранавых.

**СК`УРА (ШК`УРА) ГАР`ЫЦЬ (ГАР`ЭЛА)** *на кім. У безас. ужыв. Разм. Часцей неадабр.* Хто-н. залішне рухавы, неспакойны, няўрымслівы. **Сін**.: вада не трымаецца *на кім*; скура гаворыць *у каго, на кім. Што падумае, што плясне сваім языком круцёлка Антаніна, на якой «гарыць скура» і якая ўсіх мерае на свой капыл?* Місько. *Леанід Мікітавіч пасмейваецца: «Ох, гарыць на табе скура, Ліда, які ж гэта чалавек табе патрэбен?»* Радкевіч. *На Кандрату шкура гарэла. Біцца дык біцца, скакаць дык скакаць. З раніцы да вечара ўсюды чуліся яго смех і жарты.* Караткевіч. *Адзін чарнявы, з вусікамі, які сядзіць у кузаве грузавіка, сыпле жартамі, увесь час падміргвае Васілю, выскаляецца, пра небяспеку не дбае — шкура гарыць на матросіку.* Навуменка.

**СК`УРА (ШК`УРА) ДЫ К`ОСЦІ ЗАСТАЛ`ІСЯ** *на кім, у каго, ад каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. вельмі схуднеў. **Сін**.: <толькі> адны вочы засталіся *ў каго. Ленка.., у якой адна скура ды косці засталіся, здагадалася, не забылася, безумоўна, знарок прыйшла.* Шамякін. *Асабліва цяжка было з харчаваннем. І без гэтага ад дзяўчыны засталіся толькі скура ды косці.* Маўр. *Ніхто не пазнаваў яго — скура ды косці засталіся на хлопцы.* Праскураў. *Сыну ў мяне курорт будзе. Трэба паправіць яго трохі, а то адна скура ды косці засталіся.* Шлег.

**СК`УРА Ш`ЭРХНЕ (Ш`ЭРХЛА)** *на кім, у каго. Незак. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. адчувае моцны страх, жах. **Сін**.: аслаблі гайкі *ў каго, чые* (у 1 знач.); валасы становяцца дыбам *у каго*; вочы на лоб лезуць *у каго* (у 2 знач.); душа ў пятках *у каго, чыя*; душа ў пяткі <схавалася> *у каго*; калені дрыжаць *у каго*; кроў ледзянее *ў каго*; кроў у жылах стыне *ў каго*; мароз па скуры <прабягае> *у каго, каго,*

*чыёй*; мурашкі бегаюць па целе *ў каго, каго, чым*; неба з аўчынку здаецца *каму*; паджылкі трасуцца *ў каго*; сэрца абрываецца *ў каго, чыё*; сэрца ледзянее *у каго*; у пяткі кальнула *каму, каго* (у 1 знач.); <усе> блохі падохлі *ў каго. Яшчэ і цяпер шэрхне на мне скура, калі ўспамінаю апавяданне старых пра тое, як ля Страшава.. бандыт Пайтарак з братамі Савіцкімі з Зарэчан зарэзалі балагола Янкеля, забралі з фуры ды прыкацілі ў вёску бочку з алеем.* Карпюк. *Гэткая немата не меней страшная, чым гвалтоўная часіна, калі блізка страляюць ці паляць. Вусціішна. Аж скура шэрхне.* Далідовіч. *У тэлефонным дроце блутаўся сляпы вецер, тоненька, аж шэрхла скура, скавытаў.* Адамчык.

**Ч`ОРТАВА СК`УРА.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Тоўстая бавоўняная тканіна для рабочага і спартыўнага адзення; корт. *Маці, калі быў хлапчуком, набірала яму на адзежу «чортаву скуру» — корт, які не ведаў зносу, і шыла навырост.* Лужанін. *[Маці] скроіла [ватоўку], абцягнула паверх «чортавай скурай» — і нішто сабе адзежынка выйшла.* Сачанка. *У таго, хто зрываўся з санак і добрых дзесяць метраў слізгаў па лёдзе і па снезе на жываце, калені і локці не маглі быць цэлымі, такога шмаравання не вытрымлівала ні чортава скура, ні зрэб'е.* Гіль.

**ЯК (БЫ) ШЧЫГР`ЫНАВАЯ СК`УРА**. *Акал. Разм.* Прыкметна, адчувальна (скарачацца, звужацца, меншаць і пад.). *Час скарачаўся як шчыгрынавая скура...* Арабей. *Калі [Даўгалёў] глядзеў на карту, часам думаў: тэрыторыя імперыі капіталу звужаецца бы шчыгрынавая скура.* Лeвановіч. *Чаму настаўніцкі заробак увесь час сціскаецца як шчыгрынавая скура?* «Настаўн. газ.»

*СКУРАТ* ● **ЯК (БЫ) СКУР`АТ НА АГН`І.** *Акал. Разм.* **1**. *Неадабр.* Празмерна, залішне (выкручвацца). *[Даміцэля:] Пацеры ці згаварыла, што так выкручваешся як скурат на агні?* Купала. *Ездзіць [Надзя] цяпер па свеце, пяе, выкручваецца як скурат на агні. Перад людзьмі сорамна.* Асіпенка.

**2**. Бесперастанку (круціцца). *Не мог мне Павел нічога памагчы. Летам, праўда, трохі тупаў, дзяцей глядзеў. А я круцілася як скурат на агні,— і ў калгас, і на базар, і людзей наймаць, і расплачвацца з імі...* Міська. *Кандрат.. увесь свет аб'ездзіў. Круціўся бы скурат на агні...* Левановіч.

*СКУРУ* ● **ДАВАЦЬ У СКУРУ** *каму.* Гл. даваць.

**ДЗЯЛІЦЬ СКУРУ НЕЗАБІТАГА МЯДЗВЕДЗЯ.** Гл. дзяліць.

**ЗАЛІВАЦЬ САЛА ЗА СКУРУ** *каму.* Гл. заліваць

**ЛУПІЦЬ СКУРУ** *з каго.* Гл. лупіць.

**ПУСЦІЦЦА Ў САБАЧУЮ СКУРУ.** Гл. пусціцца.
**СПУСЦІЦЬ СКУРУ** *з каго.* Гл. спусціць.
**УЛАЗІЦЬ У СКУРУ** *чыю.* Гл. улазіць.

*СКУРЫ* ● **ВОЎК У АВЕЧАЙ СКУРЫ.** Гл. воўк.
**ВЫЛУЗВАЦЦА СА СКУРЫ.** Гл. вылузвацца.
**ДРАЦЬ ТРЫ СКУРЫ** *з каго.* Гл. драць.
**ЛУПІЦЬ ДЗВЕ СКУРЫ** *з каго.* Гл. лупіць.
**МАРОЗ ПА СКУРЫ <ПРАБЯГАЕ>** *у каго, каго, чыёй.* Гл. мароз.
**МУРАШКІ БЕГАЮЦЬ ПА СКУРЫ** *ў каго, каго, чыёй.* Гл. мурашкі.
**МУРАШКІ ЗАБЕГАЛІ ПА СКУРЫ** *ў каго, каго, чыёй.* Гл. мурашкі.
**НА ВАЛОВАЙ СКУРЫ НЕ СПІШАШ** *чаго.* Гл. спішаш.

**НА СВА`ЁЙ СК`УРЫ (ШК`УРЫ)** паспытаць, зведаць, адчуць і пад. *Акал. Разм.* Непасрэдна на самім сабе, асабіста, на ўласным вопыце. *Ужо хто-хто, а нямецка-фашысцкія вырадкі на сваёй скуры паспыталі выдатныя якасці беларускага характару.* Крапіва. *Шмат дзе пабываўшы, выбраўшыся з сапраўдных пеклаў, капітан зведаў, як кажуць, на сваёй шкуры тое, чаго не маглі зразумець Ронг Тай і Мон Арм.* Шыцік.

**ПАДЗЕЛ СКУРЫ НЕЗАБІТАГА МЯДЗВЕДЗЯ.** Гл. падзел.

**У СК`УРЫ (У ШК`УРЫ)** *чыёй. Акал. Разм.* У чыім-н. становішчы, звычайна дрэнным, незайздросным (быць, пажыць). *О, і ты гэтаксама, бы мой Віктар, рагочаш. А пабудзь у маёй скуры хоць крыху!..* Карпюк. *Каб вам хоць адно лета давялося пажыць у маёй скуры, дык вы б гэтага не сказалі.* Мяжэвіч. *—З нас ён здзекаваўся не так. Хай пабудзе ў нашай шкуры, — ужо са злосцю агрызнуўся Міхась Шайбак.* Адамчык.

*СЛАБАВАТЫ* ● **СЛАБАВАТЫ НА ЯЗЫК.** Гл. слабы.

*СЛАБАЕ* ● **СЛАБАЕ МЕСЦА** *чыё, каго, чаго, у каго, у чым.* Гл. месца.

*СЛАБАЯ* ● **СЛАБАЯ МЯСЦІНА** *чыя, каго, чаго, у каго, у чым.* Гл. месца.

**СЛ`АБАЯ НА ПЕРАД`ОК.** *Вык. Праст. Асудж.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы жаночага полу. Схільная быць у сужыцці, полавай сувязі са многімі мужчынамі. *Каця ласкавай была, каб цябе вылечыць, а плётка пайшла, што на перадок слабая. А? Гэта прыемна слухаць?* Макаёнак. *Я не пра ўсіх баб пяю, а пра Феньку сваю, падлу. Яна ў мяне на перадок слабая, пры мне, жывым мужыку, любіла ў чужыя гароды заглядваць, а без мяне і падаўна.* Шабалтас. *Дзяцей трэба ў чысціні выгадаваць, без смецця твайго, яны не вінаватыя, што маці ў іх слабая на перадок.* «Полымя».

**СЛАБАЯ СТРУНКА** *чыя, каго.* Гл. струнка.

*СЛАБІЦЬ* ● **СЛАБІЦЬ ГАЙКА** *ў каго, чыя.* Гл. гайкі.

*СЛАБЫ* ● **СЛАБЫ ПОЛ.** Гл. пол.

**СЛ`АБЫ (СЛАБАВ`АТЫ) НА ЯЗ`ЫК.** *Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Балбатлівы. **Сін**.: жаба на языку не спячэцца *ў каго*; рот <ніколі> не закрываецца *ў каго*; язык без касцей *у каго*; язык доўгі *ў каго*; язык каля вушэй матляецца *ў каго*; язык меле *чый*; язык па-за вушамі ходзіць *у каго. Я думаю, што стары можа з'явіцца сюды кожную хвіліну, і ад гэтага мы выйграем мала, бо Тапурыя, вы самі кажаце, слабаваты на язык.* Самуйлёнак.

*СЛАВА* ● **СЛ`АВА АЛ`АХУ.** *У знач. пабочн. сл. Разм. Часцей жарт.* На шчасце. Выказванне радасці, задавальнення, супакою з якой-н. прычыны. **Сін**.: дзякаваць богу (у 2 знач.); дзякуй богу (у 4 знач.); слава богу (у 3 знач.); хвала алаху; хвала богу (у 2 знач.); хваліць бога. *Вы парушылі рэжым, паважаны Алег Кірэевіч, але пагаршэння, слава алаху, не адбылося.* Мяжэвіч. *Гадзіны здаюцца вечнасцю... Але, слава алаху, усё засталося ззаду. Прайсці апошнюю інстанцыю – і кропка!..* Блакіт.

**СЛ`АВА Б`ОГУ.** *Разм.* **1**. *Акал.* Добра, паспяхова, удачна. **Сін**.: будзь-будзь (у 1 знач.); будзь здароў (у 1 знач.); дай бог (у 1 знач.); дай бог кожнаму (у 2 знач.); дзякуй богу (у 1 знач.); за маё-маё (у 1 знач.); за маліну (у 2 знач.); з бляскам (у 1 знач.); кум каралю <і сват міністру> (у 3 знач.); люба-дорага; на дзіва (у 2 знач.); на поўнае вока; на пяць з плюсам; на славу (у 1 знач.); на ўсе сто (у 2 знач.); на яць (у 1 знач.); разлюлі-маліна (у 2 знач.); хвала богу (у 1 знач.); хоць куды (у 2 знач.); што трэба (у 1 знач.); як не трэба лепш. — *Нешта ж доўга пэцкаліся? — сустрэў Мароз Лагуціна. —Ці ж хаця слава богу? —Ды слава богу. Каб лепш, то і не бывае.* Лобан.

**2**. *Вык. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Вельмі добры. **Сін**.: адным словам[1]; без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); будзь-будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); кругом сто дваццаць; на славу (у 2 знач.); на ўсе рукі; на ўсе сто (у 3 знач.); на яць (у 2 знач.); па крайняй меры (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога; першай гільдыі (у 1 знач.); першай рукі (у 1 знач.); першы клас; першы сорт; разлюлі-маліна (у 1 знач.); рэдкай рукі; хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.); як яечка. —*Сам, як той казаў, граша не варты, ды дзеці затое — слава богу, — гаварыў Лапінка.* Брыль.

**3**. У *знач. пабочн. сл.* На шчасце. Выказванне радасці, задавальнення, супакою з якой-н. прычыны. **Сін**.: дзякаваць богу (у

2 знач.); дзякуй богу (у 4 знач.); слава алаху; хвала алаху; хвала богу (у 2 знач.); хваліць бога. *У лісце, у першых яго радках, пісала жонка пра тое, што дома ўсе, слава богу, жывы і здаровы, чаго і яму жадаюць.* Галавач. *«Слава богу, не давялося ўзяць грэх на душу», — задаволена падумаў Рыбак.* Быкаў.

*СЛАВЕЧКА* ● **НА АДНО СЛАВЕЧКА.** Гл. слова.

*СЛАВУ* ● **НА СЛ`АВУ.** *Разм.* **1**. *Акал.* Вельмі добра, цудоўна, надзвычайна. **Сін**.: будзь-будзь (у 1 знач.); будзь здароў (у 1 знач.); дай бог (у 1 знач.); дай бог кожнаму (у 2 знач.); дзякуй богу (у 1 знач.); за маё-маё (у 1 знач.); за маліну (у 2 знач.); з бляскам (у 1 знач.); кум каралю <і сват міністру> (у 3 знач.); люба-дарага; на дзіва (у 2 знач.); на поўнае вока; на пяць з плюсам; на ўсе сто (у 2 знач.); на яць (у 1 знач.); разлюлі-маліна (у 2 знач.); слава богу (у 1 знач.); хвала богу (у 1 знач.); хоць куды (у 2 знач.); што трэба (у 1 знач.); як не трэба лепш. *Прыйшлося дзядзьку весці справу і папацець-такі на славу.* Колас. *І налева і направа косіць наш каваль на славу. Так да вечара мяла паслухмяная мятла, незлічоную ўсю сілу войска царскага злажыла.* Якімовіч. *Захацеў улан на славу пагуляць.* Чарот.

**2**. *Азн. Адабр.* Вельмі добры, цудоўны, надзвычайны. **Сін**.: адным словам[1]; без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); будзь-будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); кругом сто дваццаць; на ўсе рукі; на ўсе сто (у 3 знач.); на яць (у 2 знач.); па крайняй меры (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога; першай гільдыі (у 1 знач.); першай рукі (у 1 знач.); першы клас; першы сорт; разлюлі-маліна (у 1 знач.); рэдкай рукі; слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.); як яечка. *Качагар быў сумленны... Усю машыну яму даручыць было можна, таму меў хлопец здольнасць на ўсё і дасціпнасць. І выйшаў бы з яго машыніст на славу.* Лынькоў. *Скрывавілі ўсе чатыры рукі. Затое ж і булава выйшла на славу!* Маўр. *[Базыль] быў заможны гаспадар: меў новы дом і двор на славу, і ў тым двары — дай бог тавар!* Гілевіч.

*СЛАНА* ● **РАБІЦЬ З МУХІ СЛАНА.** Гл. рабіць.

*СЛАНУ* ● **ЯК СЛАНУ ШРАЦІНА.** Гл. шраціна.

*СЛАНОВАЙ* ● **ВЕЖА СА СЛАНОВАЙ КОСЦІ.** Гл. вежа.

*СЛАЦЦА* ● **СЛ`АЦЦА (СЛ`АЦЬ) Л`ІСТАМ** *перад кім. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Лісліва дагаджаць каму-н., падлізвацца да каго-н. **Сін**.: віляць хвастом (у 2 знач.); гнуцца ў

дугу перад <кім>; гнуцца ў тры пагібелі *перад кім*; гнуць спіну *перад кім*; ламаць шапку *перад кім*; лізаць боты *каму*; падаць лістам *прад кім*; падпускаць лёстачкі *каму*; поўзаць на каленях *перад кім*; рассыпацца драбней маку *перад кім*; рассыпацца <дробным> макам *перад кім*; станавіцца на заднія лапкі *перад кім*; хадзіць на задніх лапках *перад кім*; хадзіць на пальчыках *перад кім. Я бачыў, як ён, як толькі паступіў на працу ў майстэрню Плахінскага, зараз пачаў слацца перад ім лістам.* Гарэцкі. *—Ты што ж гэта?.. Так сустрэць! Самога Башлыкова! —А што ж — лістам перад ім слацца?* Мележ. *Юля ведала: Сцяпан паспачуваў бы, мог бы даць нават сваю сякеру ці наладзіць гэту, усміхаўся б, слаўся б лістам: «Нясі, Юлька, давай, Юлечка. Табе папраўлю, пастараюся».* Далідовіч. *Уваходзіць госць неспадзяваны, Мікодым Богут, той павук, што лістам сцеле перад панам, перад панамі гнецца ў крук.* Колас. *Швальбе.. зноў сцеле лістам: —Вы для нас знаходка, пан Крамер.* Навуменка.

*СЛАЦЬ* ● **СЛАЦЬ ЛІСТАМ** *перад кім.* Гл. слацца.

*СЛЕД* ● **<І> СЛ`ЕД ПРАСТ`ЫЎ (ПРАП`АЎ)** *чый, каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. бясследна знік, схаваўся. **Сін**.: толькі і бачылі *каго*; як вадой змыла (у 1 знач.); як ветрам здзьмула (у 1 знач.); як <і> не было (у 1 знач,); як маланкай спаліла *каго. Хадзем! Ён вернецца, а наш і след прастыў!* Карпюк. *Абурыўся карэспандэнт, кінуўся да фермы, а старшыні і след прастыў.* Кузьмянкоў. *Як на зло, нідзе нікога з нашых. Хоць бы тыя сувязісты, яны памаглі б. Толькі сувязістаў даўно ўжо прапаў след.* Быкаў. *Толькі адважыцца — і пачнецца новае, вольнае, жаданае... Бацька і Яўхім прыедуць, а іх [Сцяпана і Ганны] і след прапаў — шукай ветру ў полі...* Мележ.

**ЛАВІ БЯГУЧАГА ВАЎКА СЛЕД** *калі.* Гл. лаві.

**НАПАСЦІ НА СЛЕД** *каго, чаго, чый.* Гл. напасці.

**НЕ СЛ`ЕД.** *Устар. У безас. ужыв. Разм. Ужыв. ў спалучэнні з інф.* Не варта, не патрэбна (рабіць што-н.). *У гэтым сэнсе былі ў яго [Васіля Бусыгі] межы, за якія бабе наогул пераступаць не след.* Колас. *А можа, па-вашаму, пакуль і не след ехаць? Ліха яго ведае...* Гартны.

**СЛ`ЕД У СЛ`ЕД** *<u>ісці, хадзіць, валачыцца</u>* і пад. *Акал. Разм.* Неадступна, не адстаючы (хадзіць за кім-н.). *Як хвосцік, ён [Данілка] валачыўся за сакратаром райкома след у след.* Пестрак. *Затоены, маўклівы, цёмны, даўно знаёмы мой сусед валочыцца, нібы бяздомны, за мною ўсюды, след у след.* Непачаловіч. *Потым Сямён Марчанка добраахвотна стаў нібы памочнікам у Шмульца — усюды хадзіў за ім след у след.* Сачанка.

**ЯК СЛ`ЕД.** *Акал. Разм.* Належным чынам; так, як і трэба (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін**.: на поўную катушку (у 1 знач.); па ўсіх правілах; чын па чыну; чын чынаром; чын чынам; чэсць па чэсці; як мае быць (у 1 знач.); як належыць. *—Гэты гаворыць як след,— сказаў Каленіку яго другі нумар. Каленік кіўнуў галавой.* Галавач. *Хіба ты калі-небудзь як след зразумееш мяне? Я ў гэта не веру.* Скрыган. *Я ўзяў запясць малой і халоднай рукі, перш чым як след разабрацца, крыкнуў: —Жывая!..* Брыль.

*СЛЕДАМ* • **СЛ`ЕДАМ ЗА ДЗ`ЕДАМ.** *Акал. Разм.* Па шляху іншых, шляхам папярэднікаў (ісці, ехаць, рабіць што-н.). *Тое ж сёння ў нас не трыццаты, а сорак сёмы год канчаецца. І нам з калгасамі не пачынаць, — мы ўжо следам за дзедам паедзем.* Брыль. *[Колас] ад трагічнай смерці акцёра перайшоў да смерці паэта... —Мусіць, і мне хутка — следам за дзедам.* Лужанін. *Ніхто не хацеў падаваць заяву ў калгас... —Не я першы, не я і апошні,— як змовіўшыся, адказвалі мужчыны. Следам за дзедам заўсёды спасабней ісці, дарога тарнейшая.* Сабаленка.

*СЛЕПАТА* • **КУР`ЫНАЯ СЛЕПАТ`А.** *Мн. не ўжыв. Часцей дзейн. і дап. Разм.* Травяністая расліна сямейства казяльцовых; кураслеп (anemone silvestris L.). *Загарэлая рука маленькага чалавека, якую бацькам доўга хацелася б называць толькі ручкай, працягваецца і паказвае на шчодра рассыпаныя па зеляніне абочыны кветкі самай звычайнай курынай слепаты.* Брыль. *Лета ў самым пачатку, і столькі курынай слепаты, што не ступіш нагою, каб не трапіць на краску.* Мыслівец.

*СЛЁЗ* • **ДА СЛ`ЁЗ.** *Акал. Разм.* Вельмі, надзвычайна (крыўдна, балюча, хацелася і інш.). *Максіму напачатку да слёз шкада рабілася, як пакутавала за піяніна маленькая, хваравітая Вета.* Шамякін. *Ведама, знікненне базы рабіла непатрэбнай усю.. вылазку, і было крыўдна да слёз за ўсе дарэмныя намаганні.* Быкаў. *Сяргей Сяргеевіч прыгадаў, як яму хацелася хутчэй вырасці, стаць дарослым, незалежным, да слёз хацелася!* Асіпенка.

*СЛЁЗЫ* • **АДАЛЬ`ЮЦЦА СЛ`ЁЗЫ** *каму чые. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. паплаціцца за зробленае каму-н. зло, крыўду. **Сін**.: адпякуцца пірагі *каму. Васіль, загадзя табе кажу: калі што, дык ведай — я сябе не пашкадую. Я зняслаўлю цябе, рукі на сябе налажу. Паспрабуй тады пажыві... Адальюцца табе мае слёзы...* Карпаў. *Ідзі-ідзі, гіцаль!.. Адальюцца табе нашы слёзы!* Міська. *Чакай, дабяромся, скончыцца наша цярпенне, адальюцца табе нашы слёзы!* Супрунчук.

**АДН`Ы СЛ`ЁЗЫ.** *Вык. Разм. Незадав.* Ужыв. пры дзейн. са знач.

абстр. прадмета. Вельмі дрэнны, мізэрны. **Сін**.: глядзець няма на што; з рук вон (у 2 знач.); кату пад хвост (у 2 знач.); кульгаць на абедзве нагі (у 3 знач.); курам на смех (у 1 знач.); на ліхога казана; не вытрымлівае ніякай крытыкі; не лезе ні ў якія вароты; нікуды не варты; ні к чорту (у 1 знач.); ні к чорту не варты; ні самому паглядзець ні людзям паказаць; пусці паваліося (у 1 знач.); смеху варты. *Ураджаі з году ў год [у Руднянскім калгасе] былі нізкія, жывёлагадоўчыя фермы не раслі, даходу не прыносілі, працадзень — адны слёзы.* Краўчанка. *Рэстаранщчык адразу паправіўся: — Зрэшты, я — бедны яўрэй, што магу зрабіць?! Ай, і плата там такая... слёзы адны!..* Карпюк.

**АСУШВАЦЬ СВАЕ СЛЁЗЫ.** Гл. асушваць.

**АСУШВАЦЬ СЛЁЗЫ** *чые, каму.* Гл. асушваць.

**ВЫЦІРАЦЬ СЛЁЗЫ** *каму.* Гл. выціраць.

**ГЛЫТАЦЬ СЛЁЗЫ.** Гл. глытаць.

**ЗЯЗ`ЮЛЬЧЫНЫ (ЗЯЗЮЛЬК`ІНЫ) СЛ`ЁЗЫ.** *Адз. не ўжыв. Часцей у ролі дзейн. і дап. Разм.* Аднагадовая або шматгадовая расліна сямейства злакавых з некалькімі сцябламі і суквеццем мяцёлкай; дрыжнік (briza media L.). *Усюды расцёкся блакітны званец, як заўсёды, у лагчынах і лагчынках купчэлі парпуровыя зязюльчыны слёзы.* Ягоўдзік. *І толькі зязюліны слёзы ды смолка яшчэ рассыпалі свае дробныя яркія кветкі.* Шамякін.

**КРАКАДЗ`ІЛАВЫ СЛ`ЁЗЫ.** *Адз. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Пагард.* Крывадушнае спачуванне, прытворнае шкадаванне. *[Касперскі:] Кірыла Рыгоравіч! Няўжо вы сумняваецеся?.. Прысягнуць магу... [Анішчук:] Кракадзілавы слёзы.* Гурскі. *Адміністратар адкрыў фантан свайго красамоўства, змешанага з кракадзілавымі слёзамі.* «ЛіМ».

**ЛІЦЬ КРАКАДЗІЛАВЫ СЛЁЗЫ.** Гл. ліць.

**ЛІЦЬ СЛЁЗЫ** <*па кім*>. Гл. ліць.

**ПРАГЛЫНУЦЬ СЛЁЗЫ.** Гл. праглынуць.

**Ц`АРСКІЯ СЛ`ЁЗЫ.** *Толькі мн. Устар. У ролі розных чл. ск. Разм.* Гарэлка. **Сін**.: божая сляза; зладзейка з наклейкай; зялёны змей (у 1 знач.); малако ад шалёнай каровы; чортава зелле; шкляны бог. *У канцылярыі, у шафе сярод «гражданских и уголовных дел» стаяла бутэлька з «царскімі слязьмі», як называлі тады гарэлку, да якой часта прыкладаўся Пятро Восіпавіч і ў часы сваіх заняткаў у воласці.* Колас. *Не раз дзяк вазіў на сабе настаўнікаў за чарку «царскіх слёз» у Клешчыцах, дзе звычайна на канікулах збіраліся на маёўку семінарысты.* «Полымя».

*СЛІЗГАННЕ* ● **СЛІЗГАННЕ ПА ПАВЕРХНІ.** Гл. коўзанне.

*СЛІЗГАЦЬ* ● **СЛІЗГАЦЬ ПА ПАВЕРХНІ.** Гл. коўзацца.

*СЛІЗКУЮ* ● **СТАНАВІЦЦА НА СЛІЗКУЮ ДАРОЖКУ.** Гл. станавіцца.

*СЛІНА* ● **АЖ (АЖН\`О) СЛ\`ІНА (СЛ\`ІНКІ) ПАЦЯКЛ\`А (-І)** *у каго. Зак. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. пачаў адчуваць моцнае жаданне з'есці, выпіць што-н. смачнае. *Як унясла ж на стол каўбасы, бліны аўсяны ў рашаце, аж слінкі пацяклі ў Тараса і забурчала ў жываце.* «Тарас на Парнасе». *Я многа чуў пра гэтую сальку і, калі ўспомніў, ажно пацякла сліна.* Броўка. *[Снеданне] было добрае: яешня з рудаватымі падсмажанымі скваркамі, булка і па конаўцы малака... У мяне аж слінкі пацяклі.* Сабаленка.

**ШТО СЛ\`ІНА НА ЯЗ\`ЫК (ДА ГУБ\`Ы) ПРЫНЯС\`Е (НАНЯС\`Е).** *Акал. Разм. Асудж.* Зусім не думаючы і абы-што (гаварыць, плесці, балабоніць і пад.). *[Сучасны:] Каб балабоніць што сліна на язык прынясе ды не дастаць за гэта па мазгах, трэба быць братам дырэктара. Родным!* Яновіч. *Ну, Кіра — гарадская выскачка. Мала што такой пстрычцы, выгадаванай на смятане ды булачках, сліна ад злосці на язык нанясе.* Карпюк. – *За [вершаваны] радок – два рублі!.. Дык гэта ж можна сотню рублёў выгнаць – пішы сабе ды пішы... Гэта ж не дровы пілаваць... – Пішы што сліна да губы прынясе, а хто цябе тады надрукуе? – усклікнула абураная Антаніна. – Як ты любіш чужыя грошы падлічваць! І не сорамна табе.* Дамашэвіч. *[Лепешаў,* с. 81: што сліна да губы (губ, губоў) прынясе (прынесла). Выраз ужываўся і ў старажытнай беларускай літаратуры, напрыклад у палемічным помніку «Антиризисъ...» (1599): *И тамъ же далей лжитъ, соромотитъ, владыковъ, што ядовита слина до губы прынесла, запаметавши своее обетницы, же ни кому лаяти не мелъ.]*

*СЛІНКА* ● **СЛ\`ІНКА (-І) ЦЯЧ\`Э (ЦЯКЛ\`А)** *у каго. Незак. У безас. ужыв. Разм.* **1**. Хто-н. адчувае моцнае жаданне з'есці, выпіць што-н. смачнае. *А талакно ж, братка! Смачней ад бацвінка! З самага раздум'я ўжо цячэ слінка.* Дунін-Марцінкевіч. *[Якавец:] П'юць нашу гарэлку. [Галіна Паўлаўна:] А ў цябе слінка цячэ.* Крапіва.

**2**. У каго-н. узнікае моцнае жаданне набыць што-н., завалодаць чым-н. прывабным, спакуслівым. *[Кацярына:] Ха-ха-ха! Хоць я не яешня, а пэўна, як глядзіць на мяне, дык слінкі так і цякуць.* Купала. *У Янкі на багне пшаніца расла, у Карлы ад прагнасці слінка цякла.* Крапіва.

*СЛІНКІ* ● **АЖ СЛІНКІ ПАЦЯКЛІ** *ў каго.* Гл. сліна.

**СЛІНКІ ЦЯКУЦЬ** *у каго.* Гл. слінка.

*СЛІНКУ* ● **ГЛЫНУЦЬ СЛІНКУ.** Гл. глынуць.

**ГЛЫТАЦЬ СЛІНКУ.** Гл. глытаць.

**ПАГЛЫТАЦЬ СЛІНКУ.** Гл. паглытаць.

*СЛІНУ* ● **ГЛЫНУЦЬ СЛІНУ.** Гл. глынуць.

**ГЛЫТАЦЬ СЛІНУ.** Гл. глытаць.

**ПАГЛЫТАЦЬ СЛІНУ.** Гл. паглытаць.

*СЛОВА* ● **АДН`О СЛ`ОВА.** *Устар. Разм.* **1**. *Акал.* Вельмі добра. *Рабіць тут трэба — адно слова, не то — што — цуп-цуп! — і гатова, бо гэта справа — не пустая.* Колас. *Усюды песні і гулянкі. Скачуць хлопцы і дзяўчаты... Адно слова — усюды свята.* Лучына.

**2**. У *знач. пабочн. сл.* Карацей кажучы. **Сін**.: адным словам[2]. — *Ум-гу, — сказаў Кірыла і задумаўся. —Гаротнік ты, брат. Адно слова — торбачнік.* Лупсякоў.

**АД СЛ`ОВА ДА СЛ`ОВА.** *Акал. Функц. не зам.* Цалкам, поўнасцю, ад пачатку да канца (чытаць, прачытаць, помніць і пад.). **Сін**.: ад а да я; ад альфы да амегі. *Усе чулі ад слова да слова, што гаварыў Гамрэкелі, бо ён знарок гарлаў на ўвесь пасёлак.* Самуйлёнак. *Рыгор падаў Лібе Анікееў ліст. Яна прагна накінулася на яго і прачытала ад слова да слова.* Гартны.

**АП`ОШНЯЕ СЛ`ОВА** *чаго. Мн. не ўжыв. Вык. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Лепшае, самае новае дасягненне, адкрыццё ў чым-н. *Паявіліся ў нас станкі з праграмным кіраваннем. Так сказаць, апошняе слова тэхнікі.* Васілеўская. *Вы што, думаеце, што.. [экскаватар], можа, апошняе слова тэхнікі?* Шынклер.

**БРАЦЬ СЛОВА.** Гл. браць.

**БРАЦЬ СЛОВА** *з каго.* Гл. браць.

**ВЫЦЯГНУЦЬ СЛОВА** *з каго, ад каго.* Гл. выцягнуць.

**ГАСПАДАР СВАЙГО СЛОВА.** Гл. гаспадар.

**ДАВАЦЬ СЛОВА** *каму.* Гл. даваць.

**ДАР СЛОВА.** Гл. дар.

**ДА СЛ`ОВА** *прыйшлося.* *Акал. Разм.* Дарэчы, якраз у патрэбны момант (прыйшлося). Пра што-н. сказанае, расказанае. *[Ганна Паўлаўна:] Ніколі ў мяне тараканаў тых і цвыркуноў не вадзілася... [Біруля:] Гэта да слова так прыйшлося. Не крыўдуй, старая...* Шынклер. *[Скараспей:] Спадзяюся, ты не пакрыўдзіўся на мяне. [Дабрыян:] Гэта так... да слова прыйшлося.* Крапіва. *—Што ты тут Тамаша ўспамінаеш? —Прыйшлося да слова, то чаму не ўспомніць, калі яно так падыходзіць, бо якраз.* Чорны.

**ДА СЛОВА <СКАЗАЦЬ>.** Гл. сказаць.

**ЖЫВ`ОЕ СЛ`ОВА.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* **1**. Вуснае маўленне ў адрозненне ад пісьмовага. *Жывое слова народа арганічна ўвайшло ў паэзію Шаўчэнкі, парадніла яго з*

*невычэрпнымі крыніцамі народнай мудрасці.* Лынькоў. *Сам выдатны майстра і тонкі знаўца жывога слова, Кузьма Чорны пагоркаўску ставіўся да мовы пісьменніка.* Кудраўцаў.

**2**. Маўленне са свежымі, цікавымі думкамі, якое хвалюе слухача, чытача. *Ой, пайду абавязкова, быць я там павінна, каб пачуць жывое слова песняроў краіны.* А.Александровіч. *Кажу: —Калега дарагі, надрукавай ты твор благі! У ім няма жывога слова! Няма характару жывога!* «ЛіМ».

**ЗАКІДВАЦЬ СЛОВА** *за каго.* Гл. закідваць.

**З П`ЕРШАГА СЛ`ОВА (СЛ`ОЎ).** *Акал. Разм.* Адразу ж, з самага пачатку размовы. *Рэй вяла баба Наста. Нявесткі і сыны, ужо не кажучы пра ўнукаў, падпарадкоўваліся ёй з першага слова.* Дайнека. *Маці строга.. сказала: каб слухаліся з першага слова, каб сядзелі ў лесе ціха, як мышы пад венікам, інакш усіх пастраляюць немцы.* Левановіч. *Тады ўсе разам зашумелі і пераканаліся на дзеле, якія людзі яны просты, што ашуканства, як каросты, цярпець не могуць і не зносяць, ідуць начыстую і досыць! Што з першых слоў адны ў другіх пачулі блізкіх і сваіх...* Колас.

**ЛЁГКІ НА СЛОВА.** Гл. лёгкі.

**МЕЦЬ СЛОВА.** Гл. мець.

**НА АДН`О СЛ`ОВА (СЛ`ОЎЦА, СЛАВ`ЕЧКА).** *Акал. Разм.* Для вельмі кароткай размовы, паведамлення і пад. (клікаць, выклікаць і пад.). **Сін**.: на <адну> мінуту (у 2 знач.); на два словы; на пару слоў; на паўслова. *Зыгмусь подбегам пусціўся да Жагулавай сядзібы. — Пане гаспадару, на адно славечка, — паківаў ён Жагулу пальцам.* Крапіва.

<u>*Верыць, паверыць*</u> **НА СЛ`ОВА.** *Акал. Функц. не зам.* Давяраючы чыйму-н. запэўненню, без пацвярджэння фактамі, доказамі. *[Сабковіч:] Слова — вецер, а распіска гэта грунт, мой даражэнькі; дурань верыць на слова, а разумны карыстае з таго...* Дунін-Марцінкевіч. *Праверце, калі ласка, я не прашуся, каб ужо сёння і выпісалі. Я ведаю: такім людзям на слова не вераць.* Баранавых. *[Чарнавус:] Якія ж прычыны вашага адчаю? [Туляга:] Прычыны ёсць, Аляксандр Пятровіч! Паверце мне на слова!* Крапіва.

**НЕ ЛЕЗЕ ПА СЛОВА Ў КІШЭНЮ.** Гл. лезе.

**НІ СЛ`ОВА**. *Разм.* **1**. *каму. Вык.* Не гавары, не расказвай, маўчы. Загад або просьба не расказваць пра што-н. **Сін**.: ні гу-гу (у 1 знач.); ні гуку (у 1 знач.); ні мур-мур; ні-ні. *Нікому ні слова. Маўчы — і ўсё.* Чорны. *І калі ўжо так выйдзе, то паўтарай, што едзеш да Хэту. Пра тое, што ў сядле, — ні слова!* Самуйлёнак. *Толькі не падымай трывогі. Марысі пакуль што ні слова.* Чарнышэвіч.

**2**. *Акал. ці ў знач. вык. (пры апушчаным дзеясл.).* Абсалютна нічога (не гаварыць, не разумець і пад.). **Сін**.: ні паўслова; ні слова ні паўслова. *[Зусь] наблізіўся к Ігнасю.. і здаволены, відаць, бо ні слова не сказаў, адышоўся пад другіх.* Мурашка. *Калі туды ні трапіш — паўнютка хата: пяюць, крычаць, жартуюць, а Лініха — ні слова: глядзіць ды толькі цешыцца.* Гартны. *[Лёня:] Пазнячыха за ўсё жніво ні разу на полі не была. Грыбы ў горад возіць і ягады. А праўленне ёй ні слова.* Макаёнак. *Ды ў тым загана ўся казлова, што па-авечы ён — ні слова.* Крапіва.

**НІ СЛ`ОВА НІ ПАЎСЛ`ОВА.** *Акал. ці ў знач. вык. (пры апушчаным дзеясл.). Разм.* Абсалютна нічога (не гаварыць, не адказваць, не расказваць і пад.). **Сін**.: ні паўслова; ні слова (у 2 знач.). *Старая пырскала маўклівою злосцю, але ні слова ні паўслова — каб то канула што. Як стаяла каля печы, так і стаяла — урытаю.* Баранавых. *Аб тым, што ты бачыў, ты каб нікому ні слова ні паўслова.* Шамякін. *Спытай [у Жураўчыка] — ні слова ні паўслова ў адказ не пачуеш.* Дудараў. *Ленка.. прыбегла да мяне ў хату, пачала прасіць, каб я табе пра Віцю ні слова ні паўслова...* І.Капыловіч.

**Н`ОВАЕ СЛ`ОВА** *ў чым. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Апошняе, лепшае дасягненне (навуковае, тэхнічнае і пад.). *Нягледзячы на тое, што ў нас ёсць нямала твораў пра воінаў-франтавікоў, аповесць «Агонь і снег» была новым словам у беларускай літаратуры пра вайну.* Шкраба. *Крытыкі заспяваюць: новае слова ў сучаснай літаратуры, арыгінальны падыход, размах эпапеі...* Гігевіч. *Дарэчы, Міхась, чытаў «Замкі Беларусі». Я не спец, але мне здаецца, гэта новае слова ў гісторыі. І грунтоўна, і цікава.* Левановіч.

**ПАМЯНЕШ МАЁ СЛОВА.** Гл памянеш.

**П`ЕРШАЕ СЛ`ОВА** *ў чым, дзе. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Самая галоўная роля. **Сін**.: першая скрыпка (у 2 знач.). *Рана ці позна давядзецца пасылаць таго з Камітэта ў Варшаву, каб нарэшце разабрацца, каму мусіць належаць першае слова ў Літве і Беларусі.* Якімовіч.

**СКАЗАЦЬ СВАЁ СЛОВА.** Гл. сказаць.

**СЛ`ОВА Г`ОНАРУ.** *Выкл. Функц. не зам.* Праўда, сапраўды. Выраз запэўнення ў праўдзівасці чаго-н. **Сін**.: бачыць бог; бок сведка; ісцінны бог; чэснае слова; яй-богу; яй-права; як бог свят (у 2 знач.). *Берсан нахіліўся, каб узяць гарэлку. —А можа, хопіць ужо? —Па апошняй, — папрасіў Берсан. —Слова гонару! —Тады дазваляю.* Гурскі. *Слова гонару, гляджу і не пазнаю некаторых. Дзіміна, скажам, дык расцвіла проста.* Карпаў. *Слова гонару, вельмі вас*

*паважаю і цаню вашу прынцыповасць.* Карпюк.

**СЛ`ОВА ЗА СЛ`ОВА.** *Акал. Разм.* **1**. Паступова, мала-памалу (разгаварыцца, расказаць, выкладваць і пад.). **Сін**.: слова за словам; слова па слове (у 1 знач.). *Неяк слова за слова (начальнік паказаўся Суцэпку вельмі прыступным чалавекам) і ўсё, што было ў думках Суцэпкі, выклаўшы як мае быць.* Ядвігін Ш. *Слова за слова, і ўжо цэлую прамову шпарыць жандар.* Лынькоў. *Слова за слова, размова пайшла пра вайну, пра немца.* Быкаў.

**2**. Спрачаючыся, пярэчачы адзін аднаму (пасварыцца, разгаварыцца і пад.). **Сін**.: слова па слове (у 2 знач.). *Слова за слова — і пачынаўся пералік крыўд, і ўсё ляцела да д'ябла.* Шамякін. *Слова за слова — Яніс пачаў гарачыцца.* Караткевіч. *Слова за слова — і схапіліся сварыцца Дарошкі.* Сачанка.

**СЛ`ОВА ЗА СЛ`ОВАМ.** *Акал. Разм.* Паступова, мала-памалу (разгаварыцца, пачынаць размову і пад.). **Сін**.: слова за слова (у 1 знач.); слова па слове (у 1 знач.). *Рыгор жа слова за словам развёў з дзяўчынаю размову.* Гартны. *Слова за словам — пачалася гутарка.* Лынькоў. *Селі. Слова за словам паплыла гаворка — усё пра тое ж, заўсёднае: што новае чуваць на далёкім і блізкім свеце.* Кудравец.

**СЛОВА НЕ ПАЗЫЧАЕ.** Гл. пазычае.

**СЛ`ОВА ПА СЛ`ОВЕ.** *Акал. Разм.* 1. Паступова, мала-памалу, па меры развіцця размовы (разгаварыцца, выкладваць і пад.). **Сін**.: слова за слова (у 1 знач.); слова за словам. *Ён так і хацеў падысці проста да гаспадара, узяць адпаведны моманту тон — строгі, вядома, нават суровы, але не звяглівы, не злосны — і выкласці слова па слове ўсю сутнасць справы.* Зарэцкі. *Слова па слове Цімчук разгаварыўся і нават расказаў пра недарэчны сон і пра тое, што ўчора не ўдалося памірыцца і што ён ні ў чым не вінаваты перад жонкай, а яна не можа даць веры.* Леванові́ч.

**2**. Спрачаючыся, пярэчачы адзін аднаму (пасварыцца, распачаць сварку і пад.). **Сін**.: слова за слова (у 2 знач.). *Слова па слове, сварка ўзгарэлася гэтак, што Алішэўцы кінуліся біць Лявона.* Сабаленка.

**СЛ`ОВА Ў СЛ`ОВА.** *Акал. Функц. не зам.* Даслоўна, абсалютна дакладна, без скажэння (пераказаць, паўтарыць, запомніць, перадаць і пад.). **Сін**.: літара ў літару. *Слова ў слова памятае Салавей казку дзеда.* Бядуля. *—Калі ж я пасля запытаўся, што рабіў ягоны бацька да рэвалюцыі, ён пераказаў слова ў слова тое, што пры паступленні ў тэхнікум напісаў у анкеце.* Галавач. *Вера слова ў слова прыпомніла ўчарашнюю размову з гаспадыняй, спахапілася, што зноў думае пра Аляксея.* Грахоўскі.

**ТРЫМАЦЬ <СВАЁ> СЛОВА.** Гл. трымаць.

**У АДН`О <СЛ`ОВА>.** *Акал. Разм.* Аднадушна, дружна, згодна (гаварыць, казаць, цвярдзіць і пад.). **Сін**.: у адзін голас (у 2 знач.); у адзін дух (у 1 знач.). *Ён меў сабачыя адзнакі — брахаў налева і направа*; *была й сабачча яго слава, і калі пахла дзе даносам, тады, крутнуўшы толькі носам, казалі згодна, у адно слова: «Ну, гэта штучка Арцюшкова!»* Колас. *—Дык ты, Ціхон, будзеш пастулаць у калгас? —Дзеці, знаеш, у адно слова, каб у калгас. І Саша, і Ядзя.* Мысьлівец. *А яно каб усе ў адно гаварылі, што няма лішняга хлеба ў нас, зямлі мала ды неўрадлівая, то нябось не палажылі б гэтулькі на вёску.* Крапіва. *Уся вёска ў адно цвярдзіла, што яшчэ напярэдадні, звечара, бачылі настаўніка на сяле, а дзе ён за ноч мог дзецца — дзіва, дый годзе!..* Лецка.

**Ч`ЭСНАЕ СЛ`ОВА.** *Выкл. Функц. не зам.* Праўда, сапраўды. Выраз запэўнення ў праўдзівасці чаго-н. **Сін**.: бачыць бог; бог сведка; ісцінны бог; слова гонару; яй-богу; яй-права; як бог свят (у 2 знач.). *Вы, можа, не паверыце, а ў мяне, чэснае слова, была гэтая самая думка, толькі я не адважыўся сказаць вам.* Колас. *[Калібераў:] Ну ты, чэснае слова, сёння нейкі сурёзны чалавек, Моцкін.* Макаёнак. *Чэснае слова, я ўжо здарова. Так, бывае, пашчыпле трохі, але гэта глупства,* Арабей.

**ЯК СЛ`ОВА.** *Абл. У знач. часціцы (паказвае на ўмоўна-ўяўную дапушчальнасць выказвання). Разм.* Нібы. *—К настаўніцам няхай бы з'ездзіў, усё ж яны вучоныя — і ведаюць, што як нашто. —Ага, паеду к настаўніцам! Як слова я ў іх што лепшае знайду?* Гарэцкі. *Як слова пайшоў Шурка, толькі я харашо не разбяру.* Юрчанка.

**ЯК СЛ`ОВА СКАЗ`АЦЬ.** *Акал. Разм.* Вельмі хутка (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін**.: у адзін мах; у адзін міг; у <адзін> момант; у <адну> мінуту; у імгненне вока; у міг вока; у момант вока; як бач; як бачыш (у 1 знач.); як вокам згледзець (у 1 знач.); як га; як стой. *Пройдзе зімка, пройдзе лета як сказаці слова, дачакаюся я гэтак і выбарау новых.* Купала. *Як слова сказаць падбягае да майго каня нейкі чорны, хударлявы, малады яшчэ хлопец, чыста ў крамнае адзеты.* Ядвігін. Ш. *Як слова сказаць сястра была там.* Пальчэўскі.

*СЛОВАМ* ● **АДН`ЫМ СЛОВ`АМ[1].** *Вык. і азн. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Добры, варты ва ўсіх адносінах. **Сін**.: без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); будзь-будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); кругом сто дваццаць; на славу (у 2 знач.); на ўсе рукі; на ўсе сто (у 3 знач.); на яць (у 2 знач.); па крайняй меры (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога; першай

гільдыі (у 1 знач.); першай рукі (у 1 знач.); першы клас; першы сорт; разлюлі-маліна (у 1 знач.); рэдкай рукі; слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.); як яечка. *Хлопец быў — адным словам!.. Кавалер. Чуб ужо уверх драў. Здаровы, плячысты.* Лобан. *Дзяўчына — адным словам... Разам паступаў з ёю, у групе вучымся.* Янкоўскі. *[Сцяпан:] Адным словам хлопец: шляхоцкага заводу, з рызыкай, з усякай далікатнасцяй і ўсё такое.* Купала.

**АДН`ЫМ СЛ`ОВАМ²**. *У знач. пабочн. сл. Функц. не зам.* Карацей кажучы, завяршаючы сказанае. **Сін**.: адно слова (у 2 знач.). *Горад быў разбіты на раёны. Адным словам, рыхтаваліся, бо немцы вось-вось павінны былі выйсці.* Гарэцкі. *Колькі дзён трэба на тое, каб вада сышла? Як пражыць гэтыя дні?.. Адным словам, было над чым задумацца.* Маўр.

**ВАЛОДАННЕ СЛОВАМ**. Гл. валоданне.

**ВАЛОДАЦЬ СЛОВАМ**. Гл. валодаць.

**ПАМІНАЦЬ ДОБРЫМ СЛОВАМ** *каго, што.* Гл. памінаць.

**СЛОВА ЗА СЛОВАМ**. Гл. слова.

*СЛОВАМІ* ● **КІДАЦЦА СЛОВАМІ**. Гл. кідацца.

**СВА`ІМІ СЛ`ОВАМІ** *раcказваць, гаварыць, адказваць* і пад. *Акал. Разм.* Нелітаральна, не даслоўна, а перадаючы галоўны сэнс. *[Рузя:] Што я казала табе? Не тарахці, як папугай, а гавары сваімі словамі! Ну!* Брыль. *Атрымліваецца часам, што мы гаворым не пра тое, што знаем лепш за ўсіх, што нам больш за ўсё баліць, і ў той жа час гаворым не сваімі, як кажуць школьныя настаўнікі, словамі.* «ЛіМ».

*СЛОВАХ* ● **НА СЛ`ОВАХ**. *Акал. Разм.* **1**. Вусна. *Я ж табе паперку прынесла ад яго, і на словах ён сказаў, што хутка вернецца...* Чарнышэвіч.

**2**. Толькі ў размове. **Ант**.: на справе. *Так, на словах то наш, толькі к чорту глядзіць: яго маслам ты маж, а ён дзёгцем смярдзіць.* Крапіва. *Селязнёў быў мужык асаблівы, але, знаеш, не без галавы. На ражон не пёр, як некаторыя. Заядлы болей на словах, а так нішто — думаў.* Быкаў. *А мачыха то ўзрадуецца... У душы... А на словах то і яна можа аднеквацца...* Місько.

**ПА СЛ`ОВАХ** *каго. У знач. пабочн. сл. Функц. не зам.* **1**. Як паведаміў, сказаў хто-н. *Неўзабаве, па словах сустрэчных мясцовых сялян, павінна была паказацца рака Бяроза, і ўсе ўглядаліся ў цемру.* Дайнека. *Хто б мог падумаць, што нас трывожаць амаль аднолькавыя думкі, якім, на жаль, па словах майго брата, няма выйсця.* Марчук.

**2**. Як піша або вучыць, гаворыць хто-н. *Долева праца.. была напісана мовай, якая, па словах паэта, з кавалка шэрага жыцця робіць салодкую легенду.* Асіпенка.

**У ДВ`УХ СЛ`ОВАХ** сказаць, расказаць і пад. *Акал. Разм. Часцей ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр.* Коратка і проста. *—Я от хачу вам сказаць пра тое, што далёка вы, можа, ад мяне ці не, але... —Вы скажыце ў двух словах, проста...* Чорны. *Цяпер, калі я вам расказаў у двух словах радаслоўную Мухтара аж да шостага калена, вы мусіце зразумець, кім ён павінен быў стаць.* Васілёнак. *—О, пра гэта ў двух словах не скажаш. —Тады раскажыце не ў двух словах. Я не спяшаюся.* Новікаў.

*СЛОВЕ* ● **ЛАВІЦЬ НА СЛОВЕ** *каго.* Гл. лавіць.

**НА Д`ОБРЫМ СЛ`ОВЕ** дзякаваць. *Дап. Разм.* За добрае пажаданне, каштоўную думку (дзякаваць каму-н.). *—Вашы ўсе жывы. І старыя, і Валя, і дзеці. —Дзякую, дзякую на добрым слове,— узрадавана падхапіўся Алесь і абедзвюма рукамі трасе суседцы руку.* Шарахоўскі. *Дзякуй табе, Адаська, на добрым слове.* Паўлаў.

**НА Ч`ЭСНЫМ СЛ`ОВЕ** трымацца. *Акал. Разм.* Зусім ненадзейна, нетрывала, нямоцна. **Сін**.: на соплях. *Палі мастка былі падпілаваны партызанамі на ўсякі выпадак яшчэ ноччу, і масток трымаўся толькі, як гэта гаворыцца, на чэсным слове.* Лынькоў. *[Касперскі:] Зусім стары млын. [Рымша:] На чэсным слове трымаецца.* Гурскі. *Клаўдзя ўжо стала трывожыцца, што на самай справе.. [клён] трымаецца толькі на чэсным слове, можа рухнуць у любы момант...* Блакіт.

**СЛОВА ПА СЛОВЕ.** Гл. слова.

*СЛОВУ* ● **ПА АП`ОШНЯМУ СЛ`ОВУ** *чаго. Акал. Кніжн.* У адпаведнасці з самымі новымі дасягненнямі. *Побач з першабытнай малайскай вёскай, дзе людзі жылі, як і трыста гадоў назад, уздымаўся завод, пабудаваны па апошняму слову еўрапейскай тэхнікі.* Маўр. *[Сірата:] У саўгаснай насценнай газеце «Чмель» з'явілася вострая карыкатура: у кабінеце, абсталяваным па апошняму слову «містыкі», вішчыць варажбітка.* Кобец.

*СЛОВЫ* ● **БРАЦЬ <СВАЕ> СЛОВЫ НАЗАД.** Гл. браць.

**ВЯРНУЦЬ НАЗАД <СВАЕ> СЛОВЫ.** Гл. вярнуць.

**ГЛЫТАЦЬ СЛОВЫ.** Гл. глытаць.

**ДВ`А СЛ`ОВЫ.** *Акал. Разм.* Вельмі коратка (сказаць). *Я цябе прашу, Рыгоравіч. Паслухай мяне... Дай два словы сказаць...* Дудараў. *[Размысловіч:] Георгій Максімавіч, дазвольце два словы ў парадку вядзення?..* Петрашкевіч. *—Таварыш Нартыш,— звярнуўся Волак у прэзідыум. —Можна мне два словы?* Няхай.

**К`АБ (КАЛ`І Б)** *чые* **СЛ`ОВЫ ДЫ Б`ОГУ Ў В`УШЫ.** *Выкл. Разм. Часам жарт.* Выказванне пажадання, каб збылося тое, пра што сказаў субяседнік. *—А ведаеш, дзядзька, у тваіх сыной народзіцца слаўнае пакаленне. Непадобнае на нас. І гэта мы ўсё стараемся, каб яно было, гэтае пакаленне... —Каб твае словы ды богу ў вушы.* Чорны. *—Не ўпадайце ў паніку. Усё будзе добра. Вось пабачыце — будзе добра. —Каб жа вашы словы ды богу ў вушы.* Сачанка. *— Берагчы заўжды ўсіх трэба. Кожнаму адно жыццё адмерана.. — Гэта так! Калі б вашы словы ды богу ў вушы.* Быкаў.

**КІДАЦЬ СЛОВЫ НА ВЕЦЕР.** Гл. кідаць.

**НА ДВ`А СЛ`ОВЫ.** *Акал. Разм.* Для кароткай размовы, паведамлення і пад. (клікаць, выклікаць і пад.). **Сін**.: на <адно> слова; на <адну> мінуту (у 2 знач.); на пару слоў; на паўслова. *[Ёган:] А ён у вас? Гукніце на два словы.* Клімковіч. *Ты мне патрэбны на два словы.* Мікуліч.

*СЛОН* • **СЛОН НА ВУХА НАСТУПІЎ** *каму.* Гл. мядзведзь.

*СЛОЎ* • **БЕЗ Л`ІШНІХ СЛ`ОЎ.** *Акал. Функц. не зам.* Не разважаючы многа, не трацячы часу на размовы. *А што сказаць Паўлу Арсеньевічу, дый кожнаму з яго сяброў па спецгрупе, пра таго беларускага дзядзьку, які вёў іх цэлыя суткі па заваленых снегам нетрах наддзвінскіх лясоў — без лішніх слоў, без компаса і карты, нават без імя свайго і больш-менш дакладнага адраса?* Брыль. *— Усё гатова? — без лішніх слоў сустрэў ён [Пятрэнка] Галіну.* Краўчанка.

**ГУЛЬНЯ СЛОЎ.** Гл. гульня.

**ДВУХ СЛОЎ НЕ ЗВЯЗАЦЬ.** Гл. звязаць.

**З АП`ОШНІХ (АСТ`АТНІХ) СЛ`ОЎ** *лаяць, аблаяць* і пад. *Акал. Разм.* Вельмі непрыстойна. **Сін**.: на чым свет <стаіць>. *[Яначка] з дарослымі сварыўся і лаяўся з апошніх слоў, а да меншых, якіх ён мог падужаць, проста біцца кідаўся.* Крапіва. *Іван доўга хадзіў па хаце і з апошніх слоў лаяў свайго бандыта-сына.* Лобан. *[Ляснічы] ад злосці больш яшчэ чарнее, з астатніх слоў Міхася лае, з пасады выгнаць пагражае.* Колас.

**ЗВЯЗАЦЬ ДВУХ СЛОЎ** *не магчы.* Гл. звязаць.

**З ЧУЖ`ЫХ СЛ`ОЎ** *гаварыць, расказваць, пісаць. Акал. Функц. не зам.* На падставе не сваіх ведаў, а гаворкі, расказу другіх людзей. *Блізкага чалавека заўсёды шкадуеш. А мо і не? Адкуль мне гэта вядома? Гэта я гавару з чужых слоў...* Дамашэвіч. *Расказваў Мікола пра гэту гісторыю неяк невыразна, з чужых слоў, хоць і зусім шчыра.* Якімовіч. *Што ж ты будзеш рабіць у газеце, калі ты не аграном? Усё з чужых слоў будзеш пісаць, чужымі вачамі глядзець,*

*чужой галавой думаць.* Лобан.

**КІДАННЕ СЛОЎ НА ВЕЦЕР.** Гл. кіданне.

**НАБОР СЛОЎ.** Гл. набор.

**НА ПАРУ СЛОЎ.** Гл. пару.

**СА СЛ`ОЎ** *каго, чыіх. Акал. Функц. не зам.* На падставе чыйго-н. вуснага выказвання, паведамлення. *[Шыдлоўскі] са слоў Пятра ведаў, што Рускевіч — свой чалавек, але пакуль што ні ў якія зносіны з ім не ўступаў: проста ў гэтым не было неабходнасці.* Кудраўцаў. *Наступным днём пасля бунту прыязджала паліцыя з павета і са слоў войта арыштоўвала двух, трох актывістаў.* Марчук.

**СЛОЎ НЯМА.** Гл. няма.

*СЛОЎЦА* • **НА АДНО СЛОЎЦА.** Гл. слова.

*СЛУГА* • **В`АШ (ТВ`ОЙ) ПАК`ОРНЫ СЛУГ`А.** *Мн. не ўжыв. Устар. Дзейн. і дап. Кніжн. Часам жарт.* Той, хто гаворыць гэтыя словы ці піша гэтыя радкі. *Маю надзею, паночку, што Вы не адкажаце ў гэтай просьбе вашага пакорнага слугі.* Купала. *І трэба сказаць, што хоць яна і даводзіцца мне сваячкаю, але аказалася зусім з другога цеста, чым ваш пакорны слуга.* Лынькоў. *Твой пакорны слуга, як табе вядома, не жанчына. Таму дазволь сказаць табе шчырую праўду...* Васілевіч. *Не, браце, самахвальствам твой пакорны слуга ніколі не вылучаўся.* Ласкоў.

*СЛУП* • **СЛ`УП ДАР`ОГУ ПЕРАБ`ЕГ** *каму*; **СЛУП`Ы ДАР`ОГУ ПЕРАБ`ЕГЛІ** *каму. У безас. ужыв. Разм. Іран.* Хто-н. такі п'яны, што не можа рухацца па прамой лініі. *—Як так разбіў [машыну]? — пасля кароткага здранцвення працверазела Надзя. —Нажэрся, мабыць, слуп яму дарогу перабег...* І.Капыловіч. *—Чаго ты тут, гэтае самае, фанабэрышся? — умяшаўся Сымонаў сват. —Нельга, нельга. Твой клопат — круці баранку ды паглядай, каб слупы дарогу не перабягалі.* Барановіч.

*СЛУПА* • **ПРЫБІВАЦЬ ДА ГАНЕБНАГА СЛУПА** *каго.* Гл. прыбіваць.

*СЛУПОЎ* • *Даходзіць, дасягаць, дагаварыцца* **ДА ГЕРКУЛ`ЕСАВЫХ СЛУПОЎ.** *Дап. Кніжн. Неадабр.* (Даходзіць і інш.) да крайнасці ў чым-н. *Астроўскі, хвалюючыся, манатонна чытаў адрэдагаваны гаўляйтэрам генералам фон Готбергам даклад, дайшоўшы ў ім да геркулесавых слупоў...* Гурскі. *—І гэтак напісана? — усхапіўся Каржун. —Дай сюды, — выхапіў ён кніжку з рук Валешкі і ўнікнуў у разгорнутую старонку. —Ну, гэта ведаеце што?! Гэта значыць — дагаварыцца да геркулесавых слупоў.* Дуброўскі.

*СЛУПЫ* • **ГЕРКУЛ`ЕСАВЫ СЛУП`Ы** *чаго. Адз. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Вышэйшая, крайняя ступень, мяжа чаго-н. *Тры*

*арыфметычныя дзеянні — складанне, адыманне і множанне — зяўляліся геркулесавымі слупамі яго [Дамініка Ануфрыевіча] пісьменнасці.* Івашын.

**СЛУПЫ ДАРОГУ ПЕРАБЕГЛІ** *каму.* Гл. слуп.

*СЛУХАЕ* ● **ЯЗЫК НЕ СЛУХАЕ** <*каго*>. Гл. язык.

*СЛУХАЕЦЦА* ● **ЯЗЫК НЕ СЛУХАЕЦЦА** <*каго*>. Гл. язык.

*СЛУХАЦЬ* ● Біць **І (ДЫ) ДУШ`У (Д`УХУ) СЛ`УХАЦЬ**. *Акал. Разм.* (Біць) вельмі моцна, не шкадуючы. *Мне рупіла набіць морду аднаму такому за тое, што ён скрадваўся з каханнем да Тасі, па-прасцяцку захаборваючы яе безгалоўным вінам і падманлівымі шакаладкамі… Біць яго ды духу слухаць за тое найбольш, што так мала яму трэба!* Яновіч. *Каб гэта маё дзіця было, то паказаў бы; за такую работу трэба біць і душу слухаць.* Даніловіч.

*СЛУХУ* ● **НІ СЛ`УХУ НІ Д`УХУ (НІ СЛ`ЫХУ НІ Д`ЫХУ).** *Дап. ці вык. (пры апушчаных словах няма, не было). Разм.* Ніякіх вестак (няма пра каго-н). *Усё чакала [бабуля] з Сібіры дзядулю. Ды так і не дачакалася. І не было ад яго ні слуху ні духу ўжо колькі гадоў.* Гарэцкі. *У гэты час аб Салаўі ні слуху ні духу не было. Ён прапаў.* Бядуля. *[Кастусь:] І дзед Бадыль прапаў недзе. Як пайшоў, дык ні слуху ні духу.* Крапіва. *І пакацілася па вёсцы пагаласка: Пракопаў пляменнік сыскаўся. Гэта ж колькі год ні слуху ні духу не было.* Грахоўскі. *А тут яшчэ ніякай весткі ад разведчыкаў з вышыні. Пара ўжо была б ім вяртацца і дакладваць ды вось ні слыху ні дыху.* Быкаў. *І як паехаў [карэспандэнт], дык ні слыху ні дыху.* Ракітны.

*СЛЫХ* ● **НА СЛ`ЫХ.** *Акал. Разм.* **1**. Толькі слухаючы (вызначаць, засвойваць, успрымаць і пад.). *Алесь.. слухаў. Немцы гутарылі на мясцовым платдойчы, цяжка было зразумець: ён вучыў калісьці ў школе і цяпер на слых стараецца засвойваць літаратурны, агульнагерманскі гохдойч.* Брыль. *Сваіх, самых мне блізкіх, суседзяў Граховых я яшчэ мала ведаю. Пакуль што ўспрымаю іх толькі на слых.* Ракітны.

**2**. Па памяці, без нот (пецъ, іграць і пад.). *Аляксандр лёгка, на слых падбіраў любую мелодыю.* Васілевіч.

**ПЕРАТВАРАЦЦА Ў СЛЫХ.** Гл. ператварацца.

**УВЕСЬ ПЕРАТВАРЫЎСЯ Ў СЛЫХ.** Гл. увесь.

*СЛЫХУ* ● **НА СЛЫХ`У** *ў каго. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета ці, радзей, асобы. Пастаянна вымаўляецца кім-н., мае шырокую вядомасць, папулярнасць. *Перакладаць паэзію з мовы блізкай і зразумелай усім, асабліва калі верш амаль у кожнага што называецца на слыху, – занятак нялёгкі, адказны, ды яшчэ са*

*з’едлівым пытаннем-усмешкай: і марны?..* Зуёнак. *Цяпер на слыху ў газет і крытыкаў Ганна Ахматава, Пастарнак, Мандэльштам, Бродскі і г.д.* Панчанка. *А зусім нядаўна яго імя было ва ўсіх, як гэта кажуць, на слыху.* Арабей. *У выпадку рэгістрацыі Мінюстам «Айчыны» ў нашай краіне будзе 18 партый, з якіх на слыху толькі тры-чатыры.* «ЛіМ».

**НІ СЛЫХУ НІ ДЫХУ.** Гл. слуху.

*СЛЯДАХ* ● **ПА ГАР`АЧЫХ (СВ`ЕЖЫХ) СЛЯД`АХ** *<чаго>. Акал. Функц. не зам.* Адразу ж, непасрэдна пасля якой-н. падзеі. *Я лічу, што гэта трэба было рабіць або раней, адразу ж, па гарачых слядах... Або гэта трэба рабіць пазней, калі загояцца ўсе раны...* Шамякін. *Апошняя даваенная кніга М.Лынькова стваралася па гарачых слядах падзей.* «Настаўн. газ.» *Зацікавіўшыся падчас службы ў Вільні падзеямі беларуска-літоўскага паўстання, вучоны генерал напісаў па свежых слядах нарыс паўстанцкага руху на Магілёўшчыне.* Кісялёў. *Адчуваю патрэбу расказаць хаця б у некалькіх словах аб гэтай паездцы. Адразу, па свежых слядах...* Вярцінскі.

*СЛЯДОЎ* ● **ЗАМЯТАННЕ СЛЯДОЎ.** Гл. замятанне.

*СЛЯДЫ* ● **ЗАМЯТАЦЬ СЛЯДЫ.** Гл. замятаць.

*СЛЯЗА* ● **Б`ОЖАЯ СЛЯЗ`А.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм. Часта жарт. ці іран.* Гарэлка. **Сін**.: зладзейка з наклейкай; зялёны змей (у 1 знач.); малако ад шалёнай каровы; царскія слёзы; чортава зелле; шкляны бег. *Цэлы заводзік арганізавалі на млыне і ціснулі божую слязу, няшчадна пераводзячы даручанае ім збожжа.* Лынькоў. *Закусь ёсць, на божыя слёзы скінемся... Пасядзім якую гадзіну.* Ягоўдзік.

**СЛЯЗ`А СЛЯЗ`У ВЫГАН`ЯЕ (Г`ОНІЦЬ)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. горка і няспынна плача. *Кастусь падышоў да яе [мёртвай Марылі]: «Волечка, не чапай мамы. Няхай спіць!» А ў самога сляза слязу выганяе.* Нікановіч.

*СЛЯЗАМІ* ● **АБЛІВАЦЦА СЛЯЗАМІ.** Гл. абліваацца.

**УМЫВАЦЦА СЛЯЗАМІ.** Гл. умывацца

*СЛЯЗУ* ● **ВЫЦІСКАЦЬ СЛЯЗУ.** Гл. выціскаць.

**ПУСКАЦЬ СЛЯЗУ.** Гл. пускаць.

**СЛЯЗА СЛЯЗУ ВЫГАНЯЕ** *ў каго.* Гл. сляза.

*СЛЯПІЦАЙ* ● **ЛЕЗЦІ СЛЯПІЦАЙ У ВОЧЫ** *<каму>.* Гл. лезці.

*СЛЯПІЦЬ* ● **СЛЯП`ІЦЬ В`ОЧЫ** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знарок уводзіць у зман. **Сін**.: абводзіць вакол пальца *каго*; абуваць у лапці *каго*; бакі забіваць *каму*; браць

на арапа *каго*; браць на бога *каго*; браць на вудачку *каго*; браць на пушку *каго*; вадзіць за нос *каго*; вешаць лапшу <на вушы> *каму*; віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць у поле *каго*; гнуць дугі; гуляць у ката і мышку; дурыць галаву *каму* (у 1 знач.); задурыць галаву (у 3 знач.); замазваць вочы *каму*; замыльваць вочы *каму*; запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму*; корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму*; настаўляць акуляры *каму*; прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму*; пускаць пыл у вочы *каму*; травіць баланду (у 2 знач.); тумані́ць вочы *каму*; тумані́ць галаву *каму*. *Поп стане ім [сялянам] вочы сляпіць небыліцаю.* Крапіва. *Каму ты слепіш вочы...* Юрчанка.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Пазбаўляць каго-н. здольнасці правільна разбірацца ў чым-н. **Сін**.: засланяць вочы *каму*; засціць вочы *каму*. *—Можа, ужо і занадта слепіць нам вочы гэтае багацце! — уздыхнуў Алесь.* Далідовіч.

*СЛЯПОЕ* ● **СЛЯПОЕ КАЦЯНЯ.** Гл. кацяня.

*СЛЯПЫ* ● <u>*Прыстаць, прычапіцца*</u> **ЯК СЛЯП`Ы ДА ПЛ`ОТА.** *Акал. Разм. Неадабр.* Неадчэпна, дакучліва. **Сін**.: з нажом да горла; з кароткімі гужкамі; як п'яны да плота; як смала. *—І то праўда, — хуценька згадзіўся Камароўскі. —Прыстаў са сваім частаваннем як сляпы да плота.* Капусцін. *Аднойчы Коля Бурэц пахваліўся, што ў яго ёсць дзве гранаты. Мы з Санькам і прычапіліся да яго як сляпы да плота: або дай, або прадай.* Сяркоў.

**ЯК СЛЯП`Ы ПЛ`ОТА (ЗА ПЛ`ОТ)** <u>*трымацца*</u>. *Акал. Разм.* Неадступна, настойліва, упарта. *Мы з вамі, таварыш чытач, не будзем трымацца ясеня як сляпы плота...* Калюга. *З таго часу я зразумеў, што паэт не павінен трымацца рэчаіснасці як сляпы плота.* Мальдзіс. *Складваецца такое ўражанне, што ўлада наша страціла калі не розум, то слых, зрок і адчуванне, інакш бы не трымалася за калгасы як сляпы за плот.* Петрашкевіч. *Мастацтва – творчая фантазія. Гісторыя, факты яе, дзеянні асоб асаблівай прасторы фантазіі не даюць. Трымайся за іх як сляпы за плот.* Шамякін.

*СМАЖАНЫ* ● **СМАЖАНЫ ПЕВЕНЬ КЛЮНУЎ <У ЗАД>** *каго, каму.* Гл. певень.

*СМАЖАНЫМ* ● **ПАХНЕ СМАЖАНЫМ** *дзе.* Гл. пахне.

*СМАК* ● **НЕ Ў СМ`АК** *каму. У знач. вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета ці дзейн., выраж. інф. Не падабаецца. **Ант**.: да густу *каму*; да душы *каму*; да смаку *каму*; да сэрца *каму*; западаць у вока *каму* (у 2 знач.); па густу *каму*; пад густ *каму*; па

душы *каму*; па нутры *каму*; па сэрцы *каму*; як маслам па душы *каму. Ваяваць самім, ды к таму ж ваяваць супроць моцнага працўніка было амерыканцам яўна не ў смак.* Лынькоў. *Запрасілася [Зося] зноў у вёску, на роднае котлішча. А на тым котлішчы сядзець з рання да вечара таксама не ў смак.* Цяжкі.

**УВАХОДЗІЦЬ У СМАК.** Гл. уваходзіць.

*СМАКТАЦЬ* ● **СМАКТАЦЬ КРОЎ** *з каго, чыю.* Гл. піць.

**СМАКТ`АЦЬ Л`АПУ.** *Незак. Разм. Жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Жыць надгаладзь, галадаць. **Сін**.: класці зубы на паліцу; ляскаць зубамі; сядзець на хлебе і <на> вадзе. —*Тых, хто згодзіцца ехаць у Францыю, з заўтрашняга дня ўрад бярэ на сваё ўтрыманне. —Амерыканскай тушонкай і канадскімі булкамі заманьваеце. — Францыя сама лапу смокча, — прагучалі кплівыя галасы.* Пальчэўскі. *Што яшчэ ўсплыло яму ў памяці? Мо мала ён даў грошай на ўсе расходы? Палову сумы, якую яму адвалілі на дапамогу, як ведалі, што грошы яму прыдадуцца... Усёй не асмеліўся, а што потым самому? Лапу смактаць?* Дамашэвіч.

**СМАКТАЦЬ СОК** *з каго, з чаго.* Гл. высмоктваць.

*СМАКУ* ● **ДА СМ`АКУ** *каму. Вык. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Падабаецца. **Сін**.: да густу *каму,* да душы *каму*; да сэрца *каму*; западаць у вока *каму* (у 2 знач.); па густу *каму*; пад густ *каму*; па душы *каму*; па нутры *каму*; па сэрцы *каму*; як маслам па душы *каму.* **Ант**.: не ў смак *каму. Жаласлівасць чужых цётак Ваню была не да смаку.* Бядуля. —*Я сёння так стамілася, — адказала гаспадыня, вяла жуючы, — што мне ўсё да смаку.* Брыль.

<u>*Прыйсціся*</u> **ДА СМ`АКУ.** *Акал. Разм. Адабр.* Даспадобы (прыйсціся каму-н). **Сін**.: *прыйсціся* да густу; *прыйсціся* да душы; *прыйсціся* па густу; *прыйсціся* пад густ; *прыйсціся* пад нораў; *прыйсціся* па душы; *прыйсціся* па нутры; *прыйсціся* па сэрцы; у масць. *[Рыгор:] Мусіць, вам бізуны панскія вельмі да смаку прыйшліся?* Крапіва. *[Маланка] баялася, ці прыйдуцца да смаку гасцям яе аладкі.* Грамовіч.

<u>*Карысці*</u>, <u>*выніку*</u> **ЯК З Р`АКУ СМ`АКУ.** *Азн. Разм. Неадабр.* Зусім ніякай (карысці ад каго-, чаго-н.). **Сін.**: як з казла малака. *Размова з каралевай атрымалася цяжкай, працяглай і – безвыніковай. Карысці – як з раку смаку. Соф'я ні ў чым не прызналася.* Бутэвіч. *Ужо як ні старайся паддобрыцца, як ні расхвальвай яе касу і красу – аж самому часам станавілася непамысна: каб такі дарослы дзяцюк ды лістом слаўся перад зялёнай дзеўчынёхай, а выніку, лічы, ніякага, як з раку смаку.* «Полымя».

*СМАЛА* ● <u>*Прыстаць, прычапіцца, прыліпнуць, прывязацца*</u> **ЯК СМАЛ`А.** *Акал. Разм. Неадабр.* Неадчэпна, дакучліва. **Сін**.: з нажом да горла; з кароткімі гужкамі; як п'яны да плота; як сляпы да плота. *І Міколка прыстаў як смала да дзеда: —Давай паспрабуем, ці спраўна страляе!* Лынькоў. *Чаго ты прыстала як смала! Я да цябе не іду паднімаць у цябе ў хаце гвалт.* Чорны. —*Чаго ты хочаш? — прычапілася яна як смала, —Я буду весці ўсю справу, а ты можаш і нічога не рабіць, калі не захочаш.* Гарэцкі. *Лукашык прыліп як смала і не адыходзіў.* Дамашэвіч. *Чаго ты прывязаўся як смала? Згінь, прападзі!* Колас.

*СМАЛЕНАЙ* ● **САВЫ СМАЛЕНАЙ НЕ БАЧЫЎ.** Гл. бачыў.

*СМАЛЕНАЯ* ● **ГУЛА СМАЛЕНАЯ.** Гл. гула.

*СМАЛЕНУЮ* ● **ПАКАЗАЦЬ САВУ СМАЛЕНУЮ** *каму.* Гл. паказаць.

*СМАЛЕНЫМ* ● **ПАХНЕ СМАЛЕНЫМ.** Гл. пахне.

*СМАЛІЦЬ* ● **ХАЛ`ЯЎКІ (П`ЯТЫ) СМ`АЛІЦЬ** *за кім. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Заляцацца да каго-н. **Сін**.: падбіваць кліны *пад каго, да каго* (у 1 знач.). *Калі Эма летась канчала беларускую гімназію, ён так за ёй халяўкі смаліў, што дай божа!* Машара. —*На тым тыдні да Тэафілі заваліліся, дык яна на іх з таўкачом!.. — Ну, то Тэафілі ўдасца... Тадак за Марысяй пяты смаліць, мог і дараваць той таўкач.* Каліна.

*СМАЛОВЫ* ● **СМАЛОВЫ ДУБ.** Гл. дуб.

*СМАЛОЙ* ● **ЛЕЗЦІ СМАЛОЙ У ВОЧЫ** *каму, да каго.* Гл. лезці.

*СМАЛЫ* ● **ПАДЛІВАЦЬ СМАЛЫ Ў АГОНЬ.** Гл. падліваць.

*СМАЛЯНЫ* ● **СМАЛЯНЫ ДУБ.** Гл. дуб.

*СМАРКАЦЦА* ● **НЕ <Л`ЕВАЙ> НАГ`ОЙ СМАРК`АЦЦА.** *Незак. Прост.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Разбірацца ў чым-н. не горш за іншых, быць не пазбаўленым здольнасцей, ведаў і пад. **Сін**.: не лыкам шыты; самі з вусамі. **Ант**.: у бога цяля ўкраў. *Хай ужо вецер ля вушэй свішча, чым дрэнь слухаць. Жылі і жыць будзем. Не левай жа нагой смаркаемся, хоць і з вёскі...* Пташнікаў. – *І як гэты прафесар? – Грубаваты мужык, але разумны. Не нагою смаркаецца.* Караткевіч. *З-за рога будынка [Антось] паспеў заўважыць, што ланцуг зялёных фігурак размыкаецца налева, імкнучыся, відаць, адцясніць яго на роўны пляц былой кірмашовай плошчы. «Эге, – падумаў ён грубавата, – таксама, відаць, не нагою смаркаецеся».* «Полымя».

*СМЕРЦІ* ● **ГЛЯДЗЕЦЬ СМЕРЦІ Ў ВОЧЫ.** Гл. глядзець.

**ДА СМ`ЕРЦІ.** *Акал. Разм.* Вельмі (хацець, любіць, палохаць, бянтэжыць і інш.). *Яшчэ раз да смерці збянтэжанага Алёшу сябры сілком выштурхнулі з задніх радоў.* Шамякін. *Скажу вам, жэўжыкі, па сакрэту, што я да смерці не люблю лянівых і непаваротлівых*

*людзей.* Паслядовіч. *Сабака так ашчэрыўся на ката, што перапалохаў Іру да смерці.* Сабаленка.

**НА МЯЖЫ ЖЫЦЦЯ І СМЕРЦІ.** Гл. мяжы.

**ПРЫ СМ`ЕРЦІ.** *Вык. і акал. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У вельмі цяжкім, небяспечным для жыцця стане. **Сін**.: між жыццём і смерцю; на божай пасцелі (у 1 знач.); на мяжы жыцця і смерці. —*Бацька мой проста такі пры смерці... —Пры смерці? —Я табе ўжо расказваў пра яго хваробу...* Чорны. *[Катрын:] Мішэль пайшоў ужо... Чуе ўсё-такі яго сэрцайка... [Жанна:] А што такое? [Катрын:] Маці яго пры смерці.* Макаёнак. *Стары Лукаш ляжыць пры смерці, нават вады няма каму падаць, а сын, глядзі, — усё сваё!* Карпюк.

**ПЫТАННЕ ЖЫЦЦЯ І СМЕРЦІ.** Гл. пытанне.

*СМЕРЦЬ* ● **НЕ НА ЖЫЦЦЁ, А НА СМЕРЦЬ.** Гл. жыццё.

**ТОЛЬКІ ПА СМЕРЦЬ ПАСЫЛАЦЬ** *каго.* Гл. пасылаць.

<u>*Бледны, худы*</u> **ЯК СМ`ЕРЦЬ.** *Акал. Разм.* Вельмі (бледны, худы). *Тамашова нявестка — хворая, худая як смерць — абяцала ўтапіцца ад горкага жыцця.* Каваль. *Вы бледны як смерць.* Караткевіч. *Самае галоўнае — гэта пачуць, што будзе прарочыць аднавокі, худы як смерць, лысы Пецька.* Сачанка.

*СМЕРЦЮ* ● **МІЖ ЖЫЦЦЁМ І СМЕРЦЮ.** Гл. жыццём.

*СМЕТНІК* ● **ВЫКІДАЦЬ НА СМЕТНІК.** Гл. выкідаць.

**ВЫКІДАЦЬ НА СМЕТНІК ГІСТОРЫІ** *каго, што.* Гл. выкідаць.

*СМЕХ* ● **ЗА ПУСТЫ МЕХ <А Ў МЯХУ СМЕХ>.** Гл. мех.

**І СМ`ЕХ І ГР`ЭХ.** *Часцей акал. Разм.* Аднačасова весела і сумна. *[Каравай:] І смех і грэх з гэтымі бабамі... З мацярамі-адзіночкамі, я хацеў сказаць...* Макаёнак. *Як той казаў — і смех і грэх: брахаць на хвост уласны — карысці мала, гэта ясна...* Крапіва.

**КУРАМ НА СМЕХ.** Гл. курам.

**НЕ НА СМ`ЕХ.** *Акал. Разм.* Усур'ёз, з поўнай сур'ёзнасцю (рабіць што-н.). **Сін**.: на поўным сур'ёзе; не на жарты (у 2 знач.). *Законы, браце, не на смех пішуцца, з законамі табе не жарты...* Галавач. *Але ж калі рабіць — трэба не на смех рабіць.* Баранавых. *На новай службе новы шэф мне абяцаў жыллё пашырыць. Цаніў мяне ён не на смех.* Гілевіч.

**ПАДЫМАЦЬ НА СМЕХ** *каго, што.* Гл. падымаць.

**СМ`ЕХ СМ`ЕХАМ,** *а. У ролі першай часткі скл.-злуч. ск. Разм.* Ужыв. перад супраціўным злучнікам. Што ні гавары, але... **Сін**.: жарты жартамі. —*Смех смехам, а становішча сапраўды ненармальнае. Трэба вам паехаць у кіраўніцтва. Ды заадно, можа, і маю адну справу вырашылі б? —Дзераш пытальна спыніўся.*

Шынклер. *Смех смехам, а што вы далей робіце з грыбамі, расказвайце ўжо да канца.* Мурашка.

**СМ`ЕХ У З`АЛЕ.** *Выкл. Разм. Іран.* Выказванне здзіўлення, абурэння і пад. з прычыны чаго-н. недарэчнага, вартага смеху. *Вунь дачцэ імпартную дублёнку купіў. Дзевяцьсот шэсцьдзесят рублікаў. Мне мой бацька такую купіў бы? Смех у зале!* Герчык. *Смех у зале, як кажа сучасная моладзь,— гадаваўся на бульбе, ды каб не ведаць, як яе пасадзіць ці акучыць ды выкапаць?* «Полымя».

*СМЕХАМ* ● **СМЕХ СМЕХАМ.** Гл. смех.

*СМЕХУ* ● **КАЧАЦЦА АД СМЕХУ.** Гл. качацца.

**НАДРЫВАЦЬ ЖЫВАТЫ <АД СМЕХУ>.** Гл. надрываць.

**НЕ ДА СМ`ЕХУ** *каму. У безас. ужыв. Разм.* У каго-н. няма прычын, жадання весяліцца, жартаваць. *[Хлопцы] засмяяліся ад задавальнення, ад вастрыні той прыгоды, якая зараз здавалася дробязнай і забаўнай, а тады, відаць, было ім не да смеху, перапалохаліся, змерзлі, мусіць...* Радкевіч. *Мне сягоння не да смеху...* Астрэйка.

**ПАЕХАЦЬ АД СМЕХУ.** Гл. паехаць.

**ПАКАЦІЦЦА АД СМЕХУ.** Гл. пакаціцца.

**ПАМІРАЦЬ АД СМЕХУ.** Гл. паміраць.

**СМЕХУ ВАРТА.** Гл. варта.

**СМЕХУ ВАРТЫ.** Гл. варты.

*СМЕЦЦЕ* ● **ВЫНОСІЦЬ СМЕЦЦЕ З ХАТЫ.** Гл. выносіць.

*СМЕЦЦЯ* ● **ВЫНАС СМЕЦЦЯ З ХАТЫ.** Гл. вынас.

*СМУРОДЗІЦЬ* ● **СМУР`ОДЗІЦЬ СВ`ЕТ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Жыць без мэты, без пэўнай справы, без карысці для другіх; чыніць людзям непрыемнасці. **Сін**.: капціць неба; капціць свет. *[Кісялёў:] Ой, пара за цябе ўзяцца! Ты хоць раз задумаўся, навошта смуродзіш свет?* Васілеўскі.

*СМУРОДУ* ● **КАБ <І> СМУРОДУ НЕ БЫЛО** *чыйго <дзе>.* Гл. было.

*СМЯРОТНАЙ* ● **НА СМЯРОТНАЙ ПАСЦЕЛІ.** Гл. пасцелі.

*СМЯРОТНЫ* ● **СМЯРОТНЫ ГРЭХ.** Гл. грэх.

*СМЯРТЭЛЬНЫ* ● **СМЯРТЭЛЬНЫ ГРЭХ.** Гл. грэх.

*СМЯЯЦЦА* ● **КУРЫ БУДУЦЬ СМЯЯЦЦА** *з каго.* Гл. куры.

*СНЕ* ● **І Ў СНЕ НЕ СНІЎ** *чаго, пра што.* Гл. сніў.

**НЕ СНІЛАСЯ <І Ў СНЕ>** *каму.* Гл. снілася.

**СПАЦЬ І <У СНЕ> БАЧЫЦЬ** *каго, што.* Гл. спаць.

**ЯК У СН`Е.** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, часцей у спалучэнні з дзеясл. *быць, жыць, хадзіць* і пад. У стане глыбокай задуменнасці. **Сін**.: як у тумане (у 2 знач.). *Да самай пятніцы [Гендарсан] жыў як у сне.* Чарнышэвіч. *[Васіль] рабіў, аднак, усё як*

*у сне, усё было нецікавае.* Мележ. *Лесін ішоў як у сне, стараўся не спатыкнуцца і не патрывожыць дзіця.* А.Жук. *Амаль цэлы тыдзень Дзімка хадзіў як у сне.* Рыбак.

*СНЕГ* ● **Л`ЕТАШНІ СН`ЕГ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Іран.* Тое, што беззваротна мінула і нічога не варта. *Госці, людзі, што называецца, забяспечаныя, успамінаюць, колькі хто страціў на грашовай рэформе сорак сёмага года. І сёння яшчэ некаторыя цмакаюць, шкадуючы леташні снег.* Брыль. —*Калісьці ты здорава дзяўчат баяўся...* —*Не ўспамінай леташні снег.* Гардзей.

<u>*Патрэбны, трэба*</u> **ЯК Л`ЕТАШНІ СН`ЕГ.** *Акал. Разм.* Зусім не, нікольк і не (патрэбны, трэба). **Сін**.: як дзірка ў мосце; як зайцу стоп-сігнал; як пятае кола ў возе; як рыбе парасон; як сабаку пятая нага. —*Я што?.. Трэба яна мне як леташні снег!..* —*Васіль адчувае, што Ганна ад гэтых яго слоў мякчэе.* Мележ. *Хведзька — яго брат, адна кроў. А Матруне Хведзька, Галька і Валодзька — як леташні снег, адно, чужыя.* Саламаха.

**ЯК (НІБ`Ы) СН`ЕГ НА ГАЛАВ`У.** *Разм.* **1**. *Акал.* Зусім нечакана для каго-н. (з'яўляцца, прыходзіць, прыязджаць і пад.). Пра раптоўнае з'яўленне каго-н. **Сін**.: адкуль ні вазьміся; нечакана-негадана; ні адсюль ні адтуль; як гром сярод яснага неба (у 1 знач.). *[Гардзіюк:] Можна? Добры дзень! Таварыш Каліберaў? Я з абласной газеты. Гардзіюк. Спецыяльны, так сказаць, карэспандэнт. Будзем знаёмы... [Моцкін:] Нібы снег на галаву.* Макаёнак. *Мой таксама заявіцца заўсёды як снег на галаву. І тады смяецца, шчэрыць зубы. Весела яму.* Кудравец. —*А ты як дабраўся?* —*Цягніком... Ад чыгункі — аўтобусам.* —*Прасіў жа, пазвані.* —*Хацеў як снег на галаву... Гэтакім сюрпрызам...* Аношкін.

**2**. *Акал.* Зусім нечакана, раптоўна (наступіць, адбыцца і пад.). Пра якую-н. падзею, вестку і пад. *Андрэй Макаравіч падвышэнне атрымаў — стаў дырэктарам школы. І раптам, як снег на галаву — гэтая вайна, немцы...* Сачанка. *Першае пісьмо звалілася як снег на галаву.* «Вожык».

**3**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Зусім нечаканы, раптоўны (прыход, візіт, навіна і пад.). **Сін**.: як гром з яснага неба (у 2 знач.). *Гэтая твая тэлеграма была як снег на галаву. Куды цябе пераводзяць?* Асіпенка. *Візіт такіх гасцей і іх прапанова былі як снег на галаву.* Новікаў. *Нейкі рваны сягоння дзень атрымліваецца. З аднаго боку — гэта навіна пра Іваніцкага як снег на галаву, а з другога — усё залішне гладка выходзіць...* Гігевіч.

*СНЕГУ* ● **СНЕГУ ЛЕТАШНЯГА НЕ ДАПРОСІШСЯ** *ў каго.* Гл.

дапросішся.

*СНІЛАСЯ* ● **НЕ СН`ІЛАСЯ <І Ў СН`Е>** *каму. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. не мог нават уявіць, прадбачыць, дапусціць чаго-н. *Да чаго ж ты, Сідарчук, дажыўся? Няўжо твая слава не насіла цябе на крылах па зямлі? Чым ты стаў? Гэтага табе ніколі не снілася...* Пестрак. *Дзяўчыне і ў сне не снілася, што яе чакае ў жыцці, які лёс яе спаткае.* Гурскі. *[Багдан:] Можа, тут... горад будзе красавацца вялікі, і жыць у ім будуць шчасліва дзеці нашы і дзеці дзяцей нашых, гора не ведаючы. Так, можа, будуць жыць, як князю і здрадніцы ў сне ніколі не снілася.* В.Вольскі.

*СНІЎ* ● **І Ў СН`Е НЕ СН`ІЎ (-ЛА, -ЛІ)** *чаго, пра што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не мог нават уявіць, прадбачыць, дапусціць чаго-н. *Такі ўраджай, што свет пачуў. Дар поля, а не бога. Стары знявечаны пінчук і ў сне не сніў такога.* Камейша. *Аўтары.. і ў сне не снілі пра такія сакрэты і прыёмы, уладальнікамі якіх аб'яўляюць іх і сябе маладыя крытыкі.* «ЛіМ».

*СНОМ* ● **ЗАСНУЦЬ ВЕЧНЫМ СНОМ.** Гл. заснуць.

<u>*Спаць*</u> **М`ЁРТВЫМ СН`ОМ.** *Акал. Разм.* Вельмі моцна. **Сін**.: без задніх ног; сном праведніка; хоць зубы выберы; як забіты; як пшаніцу прадаўшы. **Ант**.: на адно вока. *Восем партызан спяць мёртвым сном на падлозе.* «Полымя».

**НІ СН`ОМ НІ Д`УХАМ** <u>*не ведаць, не вінаваты*</u>. *Акал. Разм.* Зусім, нічолькі, абсалютна. **Сін**.: богу душой. *А жанкі зноў сваё: — Ні сном ні духам не ведаем, куды яны скруціліся.* Грахоўскі. *Уся вёска гаварыла, толькі сама Надзька ні сном ні духам ні аб чым не ведала.* Казько. *Таня не заўсёды верыла розным нагаворам, людзі часам могуць наплесці на чалавека такога, у чым той ні сном ні духам не вінаваты.* Арабей.

**СН`ОМ ПР`АВЕДНІКА** <u>*спаць (заснуць).*</u> *Акал. Разм. Часам жарт.* Вельмі моцна. **Сін**.: без задніх ног; мёртвым сном; хоць зубы выберы; як забіты; як пшаніцу прадаўшы. **Ант**.: на адно вока. *На плашч-палатцы пад машынай, абняўшыся, спалі сном праведнікаў сябры — Тампчакоўскі і Мельнік.* Дамашэвіч. *Сеў [Мялешка] у гушчары на зямлю, каб адпачыць. І заснуў сном праведніка.* Асіпенка.

**СПАЦЬ ВЕЧНЫМ СНОМ.** Гл. спаць.

*СНОП* ● <u>*Валіцца (зваліцца)*</u> і пад. **ЯК СН`ОП.** *Акал. Разм.* Імгненна, адразу ж. **Сін**.: як падкошаны. *Ужо стрымаў ён коні, як сноп зваліўся ўжо фурман.* Купала. *Касцовы ж рукі пад вечар гулі, як тэлеграфныя слупы, спаць чалавек валіўся як сноп...* Брыль.

*СОВАЦЬ* ● **СОВАЦЬ ПАЛКІ Ў КОЛА** *каму, чаго.* Гл. ставіць.

**С`ОВАЦЬ (С`УНУЦЬ) Н`ОСА (Н`ОС) НЕ Ў СВА`Ё (ЧУЖ`ОЕ) ПР`ОСА.** *Незак. Прaст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Умешвацца ў чужыя справы. **Сін**.: лезці са сваім статутам у чужы манастыр; устаўляць свае тры грошы. *Баба Наста тропнула, як сядзела, ручніком па падале, быццам сцебанула ўнуку, прыкрыкнула, каб не совай носа не ў сваё проса.* Карамазаў. *А ты, Андрэй, не ў сваё проса не сунь носа, бо невялікі работнік і сам.* Чарнышэвіч. *—Ну, чаго вы там сціхлі? Можа, ужо золата дзеліце?.. —Не сунь носа ў чужое проса, — агрызнуўся на брата [Лаўрэн].* Грахоўскі. *Ты заўсёды сунеш нос у чужое проса.* Прокша.

**С`ОВАЦЬ (С`УНУЦЬ, УТЫК`АЦЬ) <СВ`ОЙ> Н`ОС** *куды, у што. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Умешвацца ў што-н. **Сін**.: ткнуць <свой> нос *куды* (у 1 знач.); тыцкаць нос *куды, у што. І хто тут гаспадар: ён ці яна? Глядзела б лепш хаты ды парадку ў доме, а не совала нос куды не трэба.* Колас. *Дужа часта совай ён [Мікіта] не ў сваю справу нос, любіў падслухаць, дзе што хто гаворыць, паглядаў, хто куды пайшоў.* Галавач. *[Федзя:] Адыдзіся ты ад мяне. Чаго ты сунеш свой нос у сям'ю нашу? Ты заўсёды, як цень, ходзіш па маіх сцежках.* Козел. *Чуў я сёння пра цябе. Хвалілі. А я не хвалю! І запомні: утыкаць нос у чужыя справы не смей.* Чарнышэвіч. **УС`УНУЦЬ (УТКН`УЦЬ, УВАТКН`УЦЬ, УСАДЗ`ІЦЬ) <СВ`ОЙ> Н`ОС** *куды, у што. Зак. —Можна сцвярджаць, што Анішчык ляжыць хворы... —Асмаліўся? — уткнуў свой нос Пунктовіч.* Мурашка. *Было чуваць, стары ледзь хаваў злосць на Рудога: прыпёрся, настаўнік галапузы, уткнуў свой нос!* Мележ. *І от за гэта прытваранне ды за тое, што ўсюды любіць уваткнуць свой нос, і зненавідзелі Тахвілю нашы людзі.* Калюга. *Усюды ты свой нос уваткнеш! Акрамя цябе, ніхто не ведае.* Лобан. *Толькі пісьмо ўжо распячатана.., можна і мне, грэшнаму, усадзіць туды свой нос, чыркануць табе парачку слоў.* Брыль.

*СОК* • **ВЫСМОКТВАЦЬ СОК** *з каго, з чаго.* Гл. высмоктваць.

**ЦЯГНУЦЬ СОК** *з каго.* Гл. цягнуць.

*СОКІ* • **ВЫЦІСКАЦЬ СОКІ** з *каго.* Гл. выціскаць.

*СОЛІ* • **З'ЕСЦІ ПУД СОЛІ** з *кім.* Гл. з'есці.

**МАЧАЦЬ СВОЙ ХЛЕБ У ДЗВЕ СОЛІ.** Гл. мачаць.

**НАСЫПАЦЬ СОЛІ НА РАНУ.** Гл. насыпаць.

**НАСЫПАЦЬ СОЛІ НА ХВОСТ** *каму.* Гл. насыпаць.

**СЫПАНУЦЬ СОЛІ НА СВЕЖУЮ РАНУ.** Гл. сыпануць.

*СОЛЬ* • **С`ОЛЬ ЗЯМЛ`І.** *Мн. не ўжыв. Вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Лепшыя прадстаўнікі народа, цвет якога-н. асяроддзя. *—Вот люблю свайго брата настаўніка! Гэта — соль*

*зямлі! — крыкнуў ён, зірнуўшы на фельчара і старшыню.* Колас. — *У вас, аднак, цікава ўсё гэта выходзіць, — спаважна казаў Няслаўскі. —Па-вашаму, рабочыя — соль зямлі...* Мурашка. *Зразумей, Аксеня: людзі працы — соль зямлі.* Гурскі.

**С`ОЛЬ У В`ОЧЫ** *каму. Выкл. Разм.* Выказванне нядобрага пажадання таму, хто гаворыць не тое, што трэба; выказванне засцярогі ад уроку. **Сін**.: ціпун на язык *каму. —Бандыты, мусіць, у Варшаве дзе-небудзь сядзяць, вясны чакаюць. —Глядзі, каб не ў бары сядзелі, гэта скарэй будзе. —Ціпун табе на язык. —Соль табе ў вочы.* Галавач. *—Гладзенькія кароўкі!.. — паварочваючыся за ім, пахваліў Фоля... —Шыі блішчаць. «Соль табе ў вочы!» — адвярнуўся, плюнуў Гарбацэвіч.* Далідовіч.

**СЫПАЦЬ СОЛЬ НА СВЕЖУЮ РАНУ.** Гл. сыпаць.

**ХЛЕБ ДЫ СОЛЬ** *каму.* Гл. хлеб.

*СОМАЎ* ● **НА СОМАЎ ХВОСТ** *зводзіць.* Гл. хвост.

*СОН* ● **НІ Ў С`ОН НІ Ў Ч`ЫХ** *не верыць. Дап. Разм.* Ні ў якія прымхі, забабоны (не верыць). *Разагнала цемру шэрую: у старога сэрца стукае: —Ані ў сон ні ў чых не веру я — толькі веру ў сваю руку я!..* Дудар.

**ПРАЗ С`ОН.** *Акал. Функц. не зам.* У часе сну. *Усе спяць, і ўсё спіць. Мыркне толькі дзе праз сон сабака з-пад сцяны, ды зноў цішыня.* Мурашка. *Праз сон Аляксей чуў, як здымалі кажухі, як палегчалі ўгрэтыя ногі, грукалі ў дзверы, у твар шугала марозная пара.* Грахоўскі.

**ЯК (НІБ`Ы) ПРАЗ (СКРОЗЬ) С`ОН.** *Акал. Разм.* Не зусім выразна, цьмяна (помніць, бачыць, успамінацца і пад.). **Сін**.: як у тумане (у 1 знач.). *[Наталля:] Я хацела запытацца: калі вы апошні раз бачылі яго? [Перагуд:] На полі бою, калі быў ранены. Як праз сон помню, што ён падыходзіў да мяне.* Крапіва. *Як праз сон успамінаецца сённяшняя сутычка з Іодкам і Пунктовічам, і недарэчнасць яе паўстае цяпер ва ўсёй аголенасці.* Мурашка. *Так узрушыцца хлапчынка, і тады нібы праз сон штосьць мільгнецца на хвілінку, але што — не ўцяміць ён...* Колас. *Як скрозь сон праступалі даўно пакінутыя.. мясціны.* Галавач. *Як скрозь сон [Сцёпка] чуў рогат жанчын.* Баранавых.

*СОНЕЙКА* ● **ЗА ВУШКА ДЫ НА СОНЕЙКА** *каго.* Гл. вушка.

*СОННАЕ* ● **СОННАЕ ЦАРСТВА.** Гл. царства.

*СОННАЯ* ● **СОННАЯ ЦЯЦЕРА.** Гл. цяцера.

**ЯК СОННАЯ МУХА.** Гл. муха.

*СОНЦА* ● **ПА ГАРЫ ХАДЗІЦЬ І СОНЦА НЕ БАЧЫЦЬ.** Гл. хадзіць.

**С`ОНЦА ЗАЙШЛ`О** *чыё. У безас. ужыв. Функц. не зам.*

Скончылася чыё-н. шчасце, поспехі і пад. **Сін**.: зорка закацілася *чыя*; песенька спета *чыя, каго* (у 2 знач.). **Ант**.: зорка ўзыходзіць *чыя*; сонца ўзыходзіць *<каму, для каго>. Балюча стала Уляне, крыўдна. Чаму людзі не хочуць лічыцца з яе спадзяваннямі? Няўжо думаюць, што зайшло яе сонца, што яна застанецца ў Заграддзі навечна, прыкарэе да дому.* Паўлаў.

**С`ОНЦА ЎЗЫХ`ОДЗІЦЬ (УЗЫХ`ОДЗІЛА, УЗЫШЛ`О, УЗ`ЫДЗЕ)** *<каму, для каго>. У безас. ужыв. Функц. не зам. Узнёсл.* Для каго-н. наступае шчасце, што-н. новае, вельмі значнае ў жыцці. **Сін**.: зорка ўзыходзіць *чыя*. **Ант**.: зорка закацілася *чыя*; песенька спета *чыя, каго* (у 2 знач.); сонца зайшло *чыё. А над светам ужо ўзыходзіла сонца Сталінграда.* Асіпенка. *Трэба варушыць гэту глуш, працаваць, будзіць палешукоў да новага жыцця. Няўжо ж яны не разумеюць, што сонца ўзышло, што світанне паўстае над лясамі!* Чарнышэвіч. *Хоць дзіўна ўсё ж: і мне, і Алі з другімі сонца не ўзышло... Ах, Аля, Аля!.. Пакаралі сябе мы самі ні за што!..* Гілевіч. *—Трымайцеся, мае ясачкі, хутка для ўсіх нас узыдзе сонца,— казала сястрычкам бабуля. —Чуеце, як на ўсходзе грукоча? Гэта нашы ідуць...* Мяжэвіч. *Мне нічога не заставалася, як толькі абнадзеіць бацьку: —Некалі кончыцца ўсё гэта, быць не можа... —Пакуль тое сонца ўзыдзе... —Дачакаемся. —Хіба вы, а мы, дзеткі, не. Няма тае сілы.* Місько.

**ЦЫГ`АНСКАЕ С`ОНЦА.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Начное свяціла, месяц. *Па часе недзе было ўжо многа, хоць месяц, які ці не апошні раз сёння паказваўся поўняй, свяціў на вуліцы. «От жа цыганскае сонца!» — акурат раззлаваўся Зазыба.* Чыгрынаў. *Цыганскае сонца і неба — ва ўсім ёсць сваё хараство.* Пысін. *Вазоў чумацкіх рып балюча ныў, вол пад цыганскім сонцам кожны — шэры.* Барадулін. *Як устанеш зранку, дык адну работу і робіш да цыганскага сонца.* Радкевіч. *Меле [заяц] бярозавую кару, рашчыняе цеста і, калі яно падыходзіць, пячэ на цыганскім сонцы — ясным месяцы — круглыя боханы.* Калодзежны. *Святлела летняя ноч, далёка і нясмела ўзыходзіў месяц, цыганскае сонца, слаў мяккае туманлівае святло.* А.Жук.

*СОНЦАМ* ● **МЕСЦА ПАД СОНЦАМ.** Гл. месца.

*СОНЦЫ* ● **ЗУБЫ ГРЭЦЬ НА СОНЦЫ.** Гл. грэць.

*СОПЛЯЙ* ● **СОПЛЯЙ ПЕРАБ'ЕШ** *каго.* Гл. пераб'еш.

*СОПЛЯХ* ● **НА С`ОПЛЯХ.** *Акал. Праст. Груб.* Вельмі дрэнна, нетрывала, ненадзейна (рабіць што-н., трымацца і пад.). **Сін**.: на чэсным слове. *—Як тут акапаешся, калі для бліндажа ніводнае палкі!— злуецца і Жаўтых. —Усё на соплях.* Быкаў. – *Я ганебнае не*

*рабіў, калі на пні выразаў цэлую казку?.. – Зваліўшыся калі-небудзь, памочнікі твае драбіны гэтыя на соплях гародзяць.* Шамякін.

*СОРА* ● <u>*Няхай будзе*</u> **ЯК С`ОРА (С`АРА) КАЗ`АЛА (СКАЗ`АЛА).** *Акал. Разм.* Так, як каму-н. хочацца. *[Паўлінка:] Не я твая, а ты мой на векі вечныя! [Якім:] Ну, хай будзе як Сора казала.* Купала. *—А хто адказнасць будзе несці за гэты твой манеўр? Сувораў? —Я! На мне адказнасць!.. —А няхай будзе як Сора сказала...* Савіцкі. *– Не распачынай дыскусіі, пайшлі! – настойвала Рагнеда. – Хай будзе, як Сара казала, – скончыў «дыскусію» Янка вядомым у яго мясцінах прыслоўем.* Дамашэвіч.

*СОРАК* ● **СОРАК БОЧАК АРЫШТАНЦАЎ** *нагаварыць.* Гл. бочку.

**СОРАК ПАТОЎ ВЫЙШЛА** *з каго.* Гл. выйшла.

**С`ОРАК САРАК`ОЎ** *чаго. Устар. У безас. ужыв. Разм.* Незлічонае мноства, вялікая колькасць. **Сін**.: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>;валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па<самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. Крыж сімвалам галоўным быў князёў, баярынаў, купцоў, крыжоў маскоўскіх не лічыў, казалі — сорак саракоў.* Броўка. *Прагнозы былі заўжды спрыяльныя для краіны і асабліва для яе Валадара, якому наканавана было валадарыць сорак саракоў гадоў.* Быкаў.

*СОРАМУ* ● **ЗГАРАЦЬ АД СОРАМУ.** Гл. згараць.

*СОРТ* ● **П`ЕРШЫ С`ОРТ (ГАТ`УНАК).** *Мн. не ўжыв. Вык. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета.

Выдатны, цудоўны ва ўсіх адносінах. **Сін**.: адным словам[1]; без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); будзь-будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); кругом сто дваццаць; на славу (у 2 знач.); на ўсе рукі; на ўсе сто (у 3 знач.); на яць (у 2 знач.); па крайняй меры (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога; першай гільдыі (у 1 знач.); першай рукі (у 1 знач.); першы клас; разлюлі-маліна (у 1 знач.); рэдкай рукі; слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.); як яечка. — *Брыгадзір з цябе першы сорт! — заўважыў Пракоп.* Колас. *[Сторaж:] А скажы ты мне, у цябе ўсё ў парадку? Начальства надойдзе. [Нагляднік:] Парадак першы сорт.* Галубок. *Салавей наліў у кубкі каву і пахваліў:— Першы сорт, афіцэрская!* Гурскі. *Юшка, брат, будзе першы гатунак. Нават Трыфанавіч будзе задаволены.* Караткевіч.

*СОСНАХ* ● **БЛУДЗІЦЬ У ТРОХ СОСНАХ.** Гл. блудзіць.

*СОШКА* ● **МАЛ`АЯ (МАЛ`ЕНЬКАЯ) С`ОШКА.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм. Часцей неадабр.* Нязначны, малаважны, неўплывовы чалавек. **Сін**.: абсевак у полі; адстаўной казы барабаншчык; апошняя спіца ў коле; дзесятая спіца ў коле (у 1 знач.); птушка нізкага палёту. **Ант**.: важная птушка; птушка высокага палёту. *Мяне ўзялі пры трэцім правале [падполля]. У верасні сорак другога. Быў малой сошкай: рэзаў у друкарні паперу. Частку перадаваў на газеты, лістоўкі.* Навуменка. *Па-першае, мы розныя з ёй велічыні... Я — інжынер, грымлю на ўвесь раён!.. А баба? Як была, такой і засталася — малою сошкай у калгасе.* Э.Валасевіч. *Сямён Серафімавіч назойліва «прыбядняўся» перад землякамі, кляўся ім, што ён «маленькая сошка».* Бажко. *Я пакуль што — малая сошка.* Гігевіч. *– Ты выканаўца?.. Я малая сошка – сувязны.* Шамякін.

*СПАДАЦЬ* ● **СПАДАЦЬ З ПЛЯЧЭЙ** *чыіх, каго.* Гл. звальвацца.

**СПАД`АЦЬ З ТВ`АРУ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыкметна асоўвацца, марнець. **Сін**.: спадаць з цела. **СПАСЦІ З ТВАРУ.** *Зак. За гэтыя дні яна [Валя] раптоўна, увачавідкі збляжэла, спала з твару, і пад вачамі былі знаць цёмныя кругі.* Левановіч. *Ой, не ляціце, сарокі, цераз двор высокі, каб маё дзіцятка добра спала, каб яно з тварыку не спала...* Зарыцкі.

**СПАД`АЦЬ З Ц`ЕЛА.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Худзець. **Сін**.: спадаць з твару. **СПАСЦІ (УПАСЦІ) З ЦЕЛА.** *Зак. Ці гэта вы, айцец Джон? Вы так спалі з цела, што я ледзь пазнала вас...* «Вожык». *А Петрык худы, упаў з*

*цела, гараць толькі вочы, як зоры.* Колас.

*СПАДЗЕ* ● **ВОЛАС З ГАЛАВЫ НЕ СПАДЗЕ** *ў каго, з чыёй.* Гл. волас.

**КАРОНА З ГАЛАВЫ НЕ СПАДЗЕ** *ў каго, каму.* Гл. карона.

**КАРОНА НЕ СПАДЗЕ** *з каго.* Гл. карона.

**ШТО З Н`ОСА СПАДЗ`Е (СП`АЛА)** *давацъ, аддаваць* і пад. *Звычайна дап. Разм. Нездав.* Нікому не патрэбнае, нічога не вартае, горшае. Часцей пра неданоскі, недаедкі і пад. *Гэта не пакой, а жывая магіла... Даюць што з носа спадзе! Скажыце, вы пайшлі б жыць у такую, з дазволу сказаць, кватэру, ды яшчэ з малым дзіцем, з нянькаю?* Дамашэвіч. *Прашу камісію яшчэ раз пераглядзець спіс і ўлічыць маю просьбу, а не даваць што з носа спадзе.* «Полымя».

*СПАДНІЦУ* ● **ТРЫМАЦЦА ЗА СПАДНІЦУ** *чыю.* Гл. трымацца.

*СПАЙМАЦЬ* ● **СПАЙМАЦЬ ЛІСУ.** Гл. злавіць.

*СПАКОЙНАЙ* ● **СА СПАКОЙНАЙ ДУШОЙ.** Гл. сэрцам.

*СПАКОЙНЫМ* ● **СА СПАКОЙНЫМ СЭРЦАМ.** Гл. сэрцам.

*СПАКОН* ● **СПАК`ОН ВЯК`ОЎ (В`ЕКУ).** *Акал. Функц. не зам.* З самага даўняга часу, спрадвеку. **Сін**.: ад адама (у 1 знач.); ад веку да веку; век вечны; век-вяком (у 1 знач.); з веку ў век; здавён-даўна; як свет светам (у 1 знач.). *Ад прадзедаў спакон вякоў мне засталася спадчына; паміж сваіх і чужакоў яна мне ласкай матчынай.* Купала. *Пра Петрушы хоць мімаходам сказаць не шкодзіць колькі слоў і пацікавіцца народам, што тут жыве спакон вякоў.* Колас. *Колькі яны яшчэ існуюць, тыя калгасы, і колькі ў тых крамах чаго купіш... І за што купіш?.. Ды і крамы гэтыя, ці яны настырчаць усяго, што трэба, на ўсе сёлы, спакон веку лапцюжныя і суконныя?* Васілевіч. *У Малінаўцы спакон веку касавіца пачыналася з кляпання кос.* Рубанаў.

*СПАКОЮ* ● **НЕ ДАВАЦЬ СПАКОЮ** *каму.* Гл. даваць.

*СПАЛА* ● **<НІБЫ> ЗАСЛОНА СПАЛА З ВАЧЭЙ** *у каго, чыіх.* Гл. заслона.

*СПАЛЕНЫ* ● **МАСТЫ СПАЛЕНЫ** *<чаго, куды>.* Гл. масты.

*СПАЛІЛА* ● **ЯК МАЛ`АНКАЙ (АГН`ЁМ) СПАЛ`ІЛА** *каго. Часцей у безас. ужыв. Разм.* Хто-н. бясследна, імгненна знік, схаваўся. **Сін**.: <і> след прастыў *чый, каго*; толькі і бачылі *каго*; як вадой змыла (у 1 знач.); як ветрам здзьмула (у 1 знач.); як <і> не было (у 1 знач.). — *Ага, сукін кот! — гукнуў ён на ўсю канюшню, і ад гэтага крыку пацук як маланкай спаліў на салому.* Брыль. —*А пан — лататы даў. —Цеперся. Чакаць будзе? —А аконам? —Самі шукаем. Быў тут надоечы. Як агнём спаліла.* Скрыган.

*СПАЛІЦЬ* ● **СПАЛІЦЬ СВАЕ КАРАБЛІ.** *Зак. да* **ПАЛІЦЬ СВАЕ КАРАБЛІ.**

**СПАЛІЦЬ <УСЕ> МАСТЫ <ЗА САБОЙ>.** *Зак. да* **ПАЛІЦЬ <УСЕ> МАСТЫ <ЗА САБОЙ>.**

*СПАРОЦЬ* ● **СПАРОЦЬ ГАРАЧКУ.** *Зак. да* **ПАРОЦЬ ГАРАЧКУ.**

*СПАСЦІ* ● **СПАСЦІ З ПЛЯЧЭЙ** *чыіх, каго. Зак. да* **СПАДАЦЬ З ПЛЯЧЭЙ** *чыіх, каго.*

**СПАСЦІ З ТВАРУ.** *Зак. да* **СПАДАЦЬ З ТВАРУ.**

**СПАСЦІ З ЦЕЛА.** *Зак. да* **СПАДАЦЬ З ЦЕЛА.**

*СПАТЫКНЕННЯ* ● **КАМЕНЬ СПАТЫКНЕННЯ.** Гл. камень.

*СПАЎ* ● **ЯК З НЕБА СПАЎ.** Гл. зваліўся.

*СПАЦЬ* ● **ЛАЎРЫ СПАЦЬ НЕ ДАЮЦЬ** *каго, чые каму.* Гл. лаўры.

**МЯККА СЦЕЛЕ <ДЫ МУЛКА СПАЦЬ>.** Гл. сцеле.

**СП`АЦЬ В`ЕЧНЫМ СН`ОМ.** *Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць мёртвым, пахаваным. **Сін**.: загрымець касцямі (у 1 знач.); злажыць <свае> косці; знайсці сабе магілу *дзе*; класці галаву *за каго, за што дзе*; легчы касцьмі (у 1 знач.); легчы трупам; ляжаць у <сырой> зямлі; навярнуць галавой; накладаць галавой; памінай як звалі (у 1 знач.); парыць зямлю; парыць косці *дзе*; парыць у зямлі косці; спаць у сырой зямлі; яму заскварыць. *[Дзяўчына] вяла з сабой сяло народу, дзе спаў Машэка вечным сном.* Купала. *Далёка ад Мінска Быстроў, у роднай яму сібірскай старане. А Сонцаў, паплечнік яго, у другім баку, спіць вечным сном на польскай зямлі...* Мележ. *Я спецыяльна сеў з левага боку, каб яшчэ раз зірнуць на могілкі, дзе вечным сном спяць усе мае продкі...* Жычка.

**СП`АЦЬ (ДРАМ`АЦЬ) У Ш`АПКУ.** *Незак. Разм. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не праяўляць рухавасці, энергічнасці, бяздзейнічаць, пасіўнічаць. **Сін**.: спаць на хаду. *Гэтак, покі сэрца чуе, што не час у шапку спаць, грайце, песні, хай красуе наш загон і сенажаць.* Купала. *А можа, і сапраўды надарыцца яму [Пракопу] дзе што добрае. Не трэба толькі спаць у шапку, трэба адпаведны спрыт і рухавасць.* Колас. *—Маладзец! — падхапіў Зомбер. —Не трэба драмаць у шапку.* Баранавых. *— Цяпер, вядома, з лесам лягчэй, — гаварыў Капейка. — І маладзец, што не драмаў у шапку. Тут, брат, так — што выхапіш, тое і тваё.* Брыль.

**СП`АЦЬ І <У СН`Е> Б`АЧЫЦЬ** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна жадаць чаго-н., марыць пра каго-, што-н. *Я спала і ў сне бачыла, як буду здзекавацца з мужчын, пагарджаць імі.* Асіпенка. *Канечне, і старэйшаму трэба памагчы, той таксама спіць і ў сне бачыць сваю легкавушку...* І.Капыловіч. *[Маці] спіць і бачыць мяне ў наргасе. Думае, калі сама скончыла*

*народнагаспадарчы, дык і свет клінам на ім сышоўся.* Місько. *Усё пачалося спачатку — скаргі на несправядлівасць, праклёны ў адрас «непрыяцеляў», якія быццам спяць і бачаць, як зжыць са свету Галіну Сямёнаўну.* «ЛіМ».

**СП`АЦЬ НА ХАД`У.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Марудзіць, быць вельмі пасіўным, марудлівым. **Сін**.: спаць у шапку. *Можа, праз такіх гультаёў, як ты, поле лысае. Ты ж на хаду спіш. І хочаш, каб я за цябе рабіў.* Макаёнак. *Аднойчы Круцкі спытаў Свістунова: —Чаго гэта ты такі? — Які такі?.. — Спіш на хаду.* Гамолка. *[Шафёр] не абы-каго возіць — дырэктара. А такое не кожнаму разяваку ці мялу, які спіць на хаду, даручаць.* Кананові́ч. *І от ужо нехта весела гукнуў: —Эй, левы фланг! Што спіце на хаду?* Прыгодзіч.

**СП`АЦЬ У СЫР`ОЙ ЗЯМЛ`І.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць мёртвым, пахаваным. **Сін**.: загрымець касцямі (у 1 знач.); злажыць <свае> косці; знайсці сабе магілу *дзе*; класці галаву *за каго, за што дзе*; легчы касцьмі (у 1 знач.); легчы трупам; ляжаць у <сырой> зямлі; навярнуць галавой; накладаць галавой; памінай як звалі (у 1 знач.); парыць зямлю; парыць косці *дзе*; парыць у зямлі косці; спаць вечным сном; яму засквярыць. *Спяць даўно ў зямлі сырой людзі з псіхікай старой.* Крапіва. *Шмат вайной людзей закалыхана, многа спіць іх у зямлі сырой.* Куляшоў.

*СПАЧЫВАЦЬ* ● **СПАЧЫВ`АЦЬ НА Л`АЎРАХ.** *Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Задаволіўшыся дасягнутым, бесклапотна праводзіць час. *Узнагароды даюцца не дзеля таго, каб супакоіцца, спачываць на лаўрах.* Танк. *А.Асіпенку за раман «Непрыкаяны маладзік» прысуджана Літаратурная прэмія імя І.Мележа. Але ён, як кажуць, не спачывае на лаўрах, ды і некалі — наперадзе багата работы.* «ЛіМ». *Вось я асвоіў усе металаапрацоўчыя станкі. На любым — такарным, даўбёжным, фрэзерным, стругальным — магу працаваць. Здаецца, можна, як кажуць, спачываць на лаўрах. Але дзе там!* Васілеўская. **СПАЧЫЦЬ НА ЛАЎРАХ.** *Зак.*

*СПАЧЫЦЬ* ● **СПАЧЫЦЬ НА ЛАЎРАХ.** *Зак. да* **СПАЧЫВАЦЬ НА ЛАЎРАХ.**

**СПАЧЫЦЬ У БОЗЕ.** Гл. пачыць.

*СПЕТА* ● **ПЕСЕНЬКА СПЕТА** *чыя, у каго.* Гл. песенька.

*СПЕЧАНЫ* ● **З АДНАГ`О Ц`ЕСТА <СП`ЕЧАНЫ>.** *Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі падобны на іншых па характару, поглядах і г.д. **Сін**.: абое рабое; аднаго крою; аднаго поля ягада; адным лыкам шытыя; адным мірам мазаны; два боты пара; **<з>**

аднаго балота чэрці; зроблены на адзін капыл; на адзін капыл (у 1 знач.); на адзін лад; на адзін манер (у 1 знач.). **Ант**.: з іншага цеста <спечаны>; не з такога цеста зроблены. *Паны і падпанкі, паліцыянты і ксяндзы — усе з аднаго цеста спечаны.* Сабаленка. *Міхась рассмяяўся: — Ого, павярнула куды! Ну і ну! Выкруцілася! Не, гляджу, усе вы, жанчыны, з аднаго цеста.* Калодзежны. *Мы ўсе, скажу табе, Мацвеевіч, з аднаго цеста і звязаны адзін з адным, як і куды б ні пнуліся — у старшыні, у дырэктары...* Рубанаў.

**З `ІНШАГА (ДРУГ`ОГА) Ц`ЕСТА <СП`ЕЧАНЫ>.** *Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зусім не падобны на іншых па характару, поглядах і г.д. **Сін**.: не з такога цеста зроблены. **Ант**.: абое рабое; аднаго крою; аднаго поля ягада; адным лыкам шытыя; адным мірам мазаны; два боты пара; **<з>** аднаго балота чэрці; з аднаго цеста <спечаны>; зроблены на адзін капыл; на адзін капыл (у 1 знач.); на адзін лад; на адзін манер (у 1 знач.). *Мы такія ж людзі, як і ты, Воля. Не думай, што мы нейкія асаблівыя, з іншага цеста...* Шамякін. *—Сараматніца, хоць бы настаўніцы пастыдалася... — Хібаж не праўда? Жывому жывое наўме. А настаўніца хіба з другога цеста спечана?* Грахоўскі. *Дык гэта ў нармальных людзей, Рэгіна Сідараўна, а я з іншага цеста.* Мяжэвіч.

*СПІНАЙ* ● **ЗА СП`ІНАЙ (-АМІ)** *чыёй. Акал. Разм.* **1**. Ззаду, з тыльнага боку каго-н. (быць, рабіцца і пад.). **Сін**.: за плячамі *каго, у каго* (у 1 знач.). *Віктар.. нават не заўважыў, што робіцца за яго спінай, тым больш, што Мірон за ўвесь час не падаў аніводнага гуку.* Маўр. *Сотнікаў дагнаў яго [Рыбака], і яны разам пайшлі па схіле ўніз... Маладзік блішчаў за іх спінамі.* Быкаў.

**2**. У мінулым (мець, быць і пад.). Пра пражытае, пражытае. **Сін**.: за плячамі *каго, у каго* (у 3 знач.). *У Куляшова ўзлятаюць да зорак людзі, якія маюць за спінай вялікі вопыт барацьбы за зямлю.* Бярозкін.

**3**. На ўтрыманні, пад аховай, апекай каго-н. (жыць, сядзець і пад.). **Сін**.: за галавой *чыёй*; за плячамі *каго, у каго* (у 4 знач.); на руках *чыіх, у каго* (у 1 знач.); на шыі *ў каго, чыёй* (у 1 знач.); пад крылом *у каго, чым, каго. Хоць і быў [Яўхім] скупы на добрае слова і ласку, а ўсё ж муж... За яго спінай зацішней, спакайней жанчыне. Калі што якое, ёсць ён, муж.* Сачанка. *[Данута:] Цяпер я разумею, што збілася з дарогі, што нельга ўвесь век пражыць за бацькавай спінай...* Валасевіч.

**4**. Таемна, скрытна ад каго-н., так, каб не ведалі (рабіць што-н.). *Вы мне тут сёння ўвесь вечар чаўплі, што за маім старшынством жыццё было. Каму? Вам? Вы нажываліся за маёй спінай.*

Пташнікаў.

**ПАВАРОЧВАЦЦА СПІНАЙ** *да каго, да чаго.* Гл. паварочвацца.

**СТАЯЦЬ ЗА СПІНАЙ** *чыёй, каго.* Гл. стаяць.

*СПІНЕ* ● **МАРОЗ ПА СПІНЕ <ПРАБЯГАЕ>** *у каго, каго, чыёй.* Гл. мароз.

**МУРАШКІ БЕГАЮЦЬ ПА СПІНЕ** *ў каго, каго, чыёй.* Гл. мурашкі.

**МУРАШКІ ЗАБЕГАЛІ ПА СПІНЕ** *ў каго, каго, чыёй.* Гл. мурашкі.

**НА ЧУЖОЙ СПІНЕ У РАЙ ЕХАЦЬ.** Гл. ехаць.

*СПІНУ* ● **ВЕЦЕР У СПІНУ** *каму.* Гл. вецер.

**ВЫПРОСТВАЦЬ СПІНУ.** Гл. выпроствацъ.

**ГНУЦЬ <СВАЮ> СПІНУ** Гл. гнуць.

**ГНУЦЬ <СВАЮ> СПІНУ** *перад кім.* Гл. гнуць.

**НОЖ У СПІНУ** *каму.* Гл. нож.

**ПАВАРОЧВАЦЬ СПІНУ** *да каго, да чаго.* Гл. паварочваць.

**ПАКАЗВАЦЬ СПІНУ** *<каму>.* Гл. паказваць.

**УДАР У СПІНУ** *каму.* Гл. удар.

**УСАДЗІЦЬ НОЖ У СПІНУ** *каму, чаго.* Гл. усадзіць.

**ХАВАЦЦА ЗА СПІНУ** *чыю, каго.* Гл. хавацца.

*СПІНЫ* ● **ЖЫВОТ ДА СПІНЫ ПРЫРОС** *чый, у каго.* Гл. жывот.

**НЕ РАЗГІНАЦЬ СПІНЫ.** Гл. разгінаць.

**ХАВАЦЦА ЗА ЧУЖЫЯ СПІНЫ.** Гл. хавацца.

*СПІСАЦЬ* ● **СПІСАЦЬ З РАХУНКУ.** *Зак. да* **СПІСВАЦЬ З РАХУНКУ.**

**СПІСАЦЬ У АРХІЎ.** *Зак. да* **СПІСВАЦЬ У АРХІЎ.**

**СПІСАЦЬ У РАСХОД** *каго. Зак. да* **СПІСВАЦЬ У РАСХОД** *каго.*

**СПІСАЦЬ У ТЫРАЖ** *каго. Зак. да* **СПІСВАЦЬ У ТЫРАЖ** *каго.*

*СПІСВАННЕ* ● **СП`ІСВАННЕ Ў АРХ`ІЎ** *чаго. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Прызнанне чаго-н. застарэлым, вартым забыцця. *На пачатку патрабуецца даказаць, што сучаснае «спісванне ў архіў» сапраўды значныя творы, напісаныя ў папярэднюю эпоху, не закране.* «ЛіМ». *Нехта можа не пагадзіцца наконт «спісвання ў архіў» [некаторых раней папулярных вершаў], але не з тым, што яны нарэшце страцілі сваю актуальнасць – і дзякуй богу!* Бадак.

*СПІСВАЦЬ* ● **СП`ІСВАЦЬ З РАХ`УНКУ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. **1**. *што.* Лічыць застарэлым, забываць. **Сін**.: выкідаць з галавы *каго, што*; выкрэсліваць з памяці *каго, што*; здаваць у архіў (у 1 знач.); спісваць у архіў *што. Правініўся чалавек — за тое адкажа. А што ў цэху многа дабра зрабіў, — нельга спісваць з рахунку.* Мыслівец. **СПІСАЦЬ З РАХУНКУ.** *Зак.*

**2**. *каго.* Адхіляць каго-н., лічачы непрыдатным да якой-н. дзейнасці.

**Сін**.: здаваць у архіў (у 2 знач.); спісваць у тыраж *каго. Дзераня спісваць з рахунку рана... Дзерань яшчэ пакажа сябе, не сумнявайцеся...* Хадкевіч. *Эх, каб яму адукацыю! Хоць бы які тэхнікум! Прашляпілі, ох як прашляпілі, што ў свой час не змусілі вучыцца! Цяпер не паправіш, і спісваць з рахунку рана — такімі, як Кунцэвіч, не раскідваюцца...* Блакіт. **СПІСАЦЬ З РАХУНКУ** *каго. Зак.*

**СП`ІСВАЦЬ У АРХ`ІЎ** *што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Прызнаваць застарэлым, забываць. **Сін**.: выкідаць з галавы *каго, што*; выкрэсліваць з памяці *каго, што*; здаваць у архіў (у 1 знач.); спісваць з рахунку (у 1 знач.). *Не будзем загадваць, як гэта ісціна выявіцца потым у нашай літаратурнай практыцы. Але не будзем спісваць фальклор у архіў.* Мележ. *Святы, якія вякамі сцверджаны ў шырокім славянскім свеце і сталі агульнапрызнанай яго самабытнай спадчынай, яшчэ ніхто не спісваў у архіў.* «Звязда». **СПІСАЦЬ У АРХІЎ** *што. Зак. [Капітан:] Год альбо і нават тры — не кара, грашок юнацтва спішаце ў архіў.* Куляшоў.

**СПІСВАЦЬ У РАСХОД** *каго.* Гл. выводзіць.

**СП`ІСВАЦЬ У ТЫР`АЖ** *каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Адхіляць каго-н., лічачы непрыдатным да якой-н. дзейнасці. **Сін**.: здаваць у архіў (у 2 знач.); спісваць з рахунку (у 2 знач.). *Хай ведаюць, што Ракопчык яшчэ не стары — рана спісваць у тыраж...* Карамазаў. *—Гэта што — ход? — пайшоў ён [Малевіч] напрапалую, захліпваючыся. —Ці спісваеш у тыраж? — Можа быць, — адказала Ала.* Карпаў. **СПІСАЦЬ У ТЫРАЖ** *каго. Зак.*

*СПІЦА* ● **АП`ОШНЯЯ СП`ІЦА Ў К`ОЛЕ.** *Мн. не ўжыв. Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Чалавек, які адыгрывае нязначную ролю ў грамадстве, у жыцці, не мае ніякага ўплыву. **Сін**.: абсевак у полі; адстаўной казы барабаншчык; дзесятая спіца ў коле (у 1 знач.); малая сошка; птушка невысокага палёту (у 1 знач.). **Ант**.: важная птушка; птушка высокага палёту. *Ён, Міхед, быў апошняй спіцай у коле. Знайшліся большыя злачынцы.* Сабаленка. *Раптам, скажам, чытаеш вялікага, славутага пісьменніка і знаходзіш думку, якая ў цябе самога узнікла. Ад гэтага радасна. Значыць, ты нібыта таксама не апошняя спіца ў коле.* Навуменка.

**ДЗЕС`ЯТАЯ (С`ЁМАЯ) СП`ІЦА Ў К`ОЛЕ.** *Мн. не ўжыв. Часцей у знач. вык. Разм. Неадабр.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Чалавек, які адыгрывае нязначную ролю ў жыцці, грамадстве, не мае ніякага ўплыву. **Сін**.: абсевак у полі; адстаўной казы

барабаншчык; апошняя спіца ў коле; малая сошка; птушка невысокага палёту. **Ант**.: важная птушка; птушка высокага палёту (у 1 знач.). *[Андрэй Руды] паводзіў сябе не як якая-небудзь дзесятая спіца ў коле, а як першы ў сям'і, гаспадар.* Мележ. *Ёсць у нарысе і іншыя героі. Шаблонскі — сёмая спіца ў коле, ні ўласных думак, ні ўласнай волі.* Дуброўскі.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Тое, што мае мізэрнае значэнне. *Кажаце пры чым тут райбанк?.. Сам райбанк тут — дзесятая спіца ў коле. А першая — сакратар-машыністка ўпраўляючага — Люська.* Ракітны.

*СПІШАШ* ● **НА ВАЛ`ОВАЙ СК`УРЫ (ШК`УРЫ) НЕ СП`ІШАШ** *чаго. У безас. ужыв. Разм.* Вельмі многа. **Сін**.: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. На тую пару якраз пасыпаліся прозвішчы ад пастухоў: «Рабы, Галдабыр, Касня...» Куды — на валовай скуры тых прозвішчаў усіх не спішаш.* Цётка. *Я ёй не падабаюся. Што ж... Учора нават гультаём назвала. А што было да гэтага, на валовай шкуры не спішаш. І стары, і затабаканюханы, і непаваротлівы, і дурны, і неахайны...* Пестрак.

*СПЛЫЛО* ● *Шмат, многа, нямала, колькі, столькі* **ВАД`Ы СПЛЫЛ`О (СПЛЫВ`Е)**. *У безас. ужыв. Разм.* (Шмат і інш.) прайшло часу, адбылося змен. *І хоць з той пары, як кажуць, шмат вады сплыло, — гэтулькі ж гадоў прайшло! — успомнілася мне з усімі драбніцамі*

*гісторыя яго [Івана Міхайлавіча] «хваробы».* Чавускі. *Нямала яшчэ вады сплыве, пакуль усе ў нас стануць свядомыя, чулыя, уважлівыя.* «ЛіМ». *Гэта адзіны здымак, які астаўся на памяць аб ім [Васілю]. Як даўно тое было. Колькі вады сплыло з таго часу.* Кузьмянкоў.

*СПЛЫЎ* ● **БЫЎ ДЫ СПЛЫЎ.** Гл. быў.

**<З> ВАД`ОЙ СПЛ`ЫЎ (-Л`А, -Л`О, -Л`І).** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Прайшоў, мінуў, даўно забыты. **Сін**.: быллём зарасло; кануць у лету. *[Мальвіна:] Дзе мае маладыя гадочкі? Дзе мая дзявочая краса? Усё прахам пайшло, усё з вадою сплыло, нібы і не было ніколі.* В.Вольскі. *[Якім:] Быў жа такі час, што [твой бацька] мяне любіў ды нават у бядзе то тады, то сяды памагаў. [Паўлінка:] Быў час, але вадою сплыў.* Купала. *—А што гэта мой стары нейкія байкі расказвае, от, кажа, некалі садоў было на Палессі!.. —Было, ды з вадой сплыло, — хрыпла, на хаду кінуў Вагановіч.* Кусянкоў.

*СПОВЕДЗІ* ● **ЯК (НІБ`Ы) НА СП`ОВЕДЗІ.** *Акал. Разм.* Вельмі шчыра, нічога не ўтойваючы (гаварыць, расказваць, прызнавацца і пад.). **Сін**.: паклаўшы руку на сэрца; як на духу; як перад богам. *Эх, так і быць, раскажу табе ўсё як на споведзі.* Асіпенка. *Што ты... Хай во скажа як на споведзі, ці не я яго трохі сватаў?* Адамчык. *На яго твары была гэтакая ўвага і прыязнасць, што хацелася гаварыць нібы на споведзі.* Левановіч.

*СПОДАЧКУ* ● **НА СПОДАЧКУ.** Гл. талерцы.

*СПОДЗЕ* ● **НА СП`ОДЗЕ ДУШ`Ы.** *Акал. Разм.* Унутрана, употайкі, падсвядома. **Сін**.: на дне душы; у глыбіні душы. *Недзе на сподзе душы і засмучэнне было — страцілі ж, лічы, на пачатку зімы добрую цёплую хату.* Сачанка. *Нейкая спакутаваная любасць да яго [Імполя] заварушылася на сподзе душы.* Адамчык. *Збышак скончыў каталіцкі каледж, няблага развіў у сабе якасці езуіта, што драмалі на сподзе душы.* «Полымя».

*СПОДКУ* ● **НА СПОДКУ.** Гл. талерцы.

*СПОРУ* ● **НІ СП`ОРУ НІ ЎМАЛ`ОТУ.** *Акал. Разм. Часцей неадабр.* Беспаспяхова, безвынікова, дрэнна. *А касіць [Аўдоля] пойдзе — зноў, як кажуць, ні спору ні ўмалоту. То ў зямлю каса носам улезе, то вяршкі сцінае.* Крапіва. *Самае вялікае шчасце, нават для саламяных удоў — займець бюлетэнь, не ісці на работу. А калі і прыходзяць, то абы дзень да вечара, абы адбыць чаргу — словам, ні спору ні ўмалоту.* Блакіт.

*СПРАВА* ● **ВЯДОМАЯ СПРАВА.** Гл. рэч.

**ДЗІЎНАЯ СПРАВА.** Гл. рэч.

**І СПРАВА З КАНЦОМ.** Гл. дзела.

**НЕ МАЙГ`О (ТВАЙГ`О, ЯГ`О, Я`Е) Р`ОЗУМУ СПР`АВА.** *У безас. ужыв. Разм.* Мяне (цябе і інш.) не датычыць. **Сін**.: не майго носа палоса. *Лаўрэн, абкручваючы нагу суконкай, спакойна адказаў: — Не твайго розуму справа, і ты не ўтыкайся!* Самуйлёнак. *[Першая жанчына:] Сёння — дажынкі. Мы да пана ідзём, а ты людзей крыўдзіш. [Войт:] Не твайго розуму справа!* В.Вольскі. *[Іван:] Дзед, не лезь. Не твайго розуму справа.* Макаёнак.

*Мая (твая, наша* і пад.). **СПР`АВА (ДЗ`ЕЛА) СТАРАН`А.** *У безас. ужыв. Разм.* Каго-н. зусім не датычыцца; што-н. не мае ніякіх адносін да каго-н. **Сін**.: хата з краю. *Ты ведай адно: не падслухоўвай больш і маўчы. Табе што! Твая справа — старана. А я дам бацьку хлеба і... дам, дам, усяго дам.* Чорны. *Усе сяляне нічога не рабілі, сядзелі збоку ад падзей, каб нікуды не ўлезці, каб ні ў чым не замяшацца. От, хай сабе там нехта нешта робіць, а наша дзела старана.* Гарэцкі. *—Тваё дзела старана! Не па душы табе — адыдзі! — крыкнуў на сына Бонусь.* А.Жук.

**СПР`АВА НЕ СТ`АНЕ** *за кім, за чым. У безас. ужыв. Разм.* Затрымкі не будзе з-за каго-, чаго-н. *—Глядзі, каб ішоў простым шляхам, каб лінію не пакрывіў, не пахіснуў! —А мы падтрымаем! — За гэтым справа не стане.* Шынклер. *—А ўжо тынкаваць канчаем, так што, відаць, праз колькі дзён трэба і вокны асаджваць. —За мной справа не стане...* Броўка.

*Пакуль* **СУД ДЫ СПРАВА.** Гл. суд.

**У Ч`ЫМ СПР`АВА.** *У ролі пытальнага ці дадан. ск. Разм.* Што здарылася. **Сін**.: у чым рэч. *—У чым справа? — Папсаваліся правады і перарваўся ток.* Гартны. *Атрымліваецца пераклад і то няўдалы, не творчы. У чым справа? Тут мы ўпіраемся ў пытанне, якой мовай чалавек думае.* Крапіва. *Пятрусь, хоць і глухаваты, і спіць яшчэ моцна, раскатурхаўся хутка, сцяміў, у чым справа...* Брыль. *Пакуль дазваніўся, урэшце, ды растлумачыў, у чым справа, празяваў апошні аўтобус у Сяльцо.* Быкаў.

*СПРАВАЙ* ● **ГРЭШНАЙ СПРАВАЙ.** Гл. дзелам.

*СПРАВЕ* ● **НА С`АМАЙ СПР`АВЕ.** *Акал. Функц. не зам.* У сапраўднасці, фактычна. **Сін**.: на паверку. *[Ганна:] Тут справа сур'ёзная заварылася. Падман дзяржавы! Па зводках мы перадавікі, а на самай справе — і палавіны таго не здалі.* Макаёнак. *Спярша Іваноўскі падумаў, што яму здалося, але, услухаўшыся, ён адагнаў ад сябе ўсе сумненні — на самай справе дзесьці вурчэла машына.* Быкаў.

**НА СПР`АВЕ.** *Акал. Разм.* Па сутнасці, на практыцы. **Ант**.: на

словах. *Быў такі выпадак, калі Суцёпку прыйшлося на справе паказваць, які ён ужо быў вучоны чалавек: сакратаром давялося раз быць яму.* Колас. *А мне дык Сяргей Пятровіч не толькі добрым словам памог, але і на справе.* Крапіва. *[Эсэр:] Тое, што вам бальшавікі абяцаюць на словах, урад нашай партыі дасць на справе.* Лобан.

*СПРАВУ* ● **МЕЦЬ СПРАВУ.** Гл. мець.

*СПРАЎ* ● **МАЙСТАР ЗАПЛЕЧНЫХ СПРАЎ.** Гл. майстар.

*СПРАЎЛЯЮЦЬ* ● **ЧЭРЦІ ВЯСЕЛЛЕ СПРАЎЛЯЮЦЬ.** Гл. чэрці.

*СПРУЖЫНАХ* ● *Падхапіцца, ускочыць* і пад. **ЯК НА СПРУЖ`ЫНАХ.** *Акал. Разм.* Энергічна, імкліва, рэзка. **Сін**.: як апараны <кіпнем> (у 1 знач.); як уджалены. *[Косцю] зрабілася так добра і весела, што ён як на спружынах падхапіўся з крэсла, правёў рукою па сваіх светлых валасах і, адчуваючы сілу ва ўсім целе, выйшаў з дому, каб ісці на работу.* Арабей. *Дзед як на спружынах падхапіўся.. і пекануў у каршуна.* Даніленка.

*СПУДАМ* ● **ПАД СП`УДАМ.** *Акал. Функц. не зам.* Без выкарыстання, ужывання, прымянення; у забыцці (трымаць, заставацца, знаходзіцца і пад.). *Вопыт перадавых гаспадарак Даленка лічыў не менш важным за іхнюю натуральную прадукцыю. Ён прагна вывучаў гэты вопыт. І вопыт сваёй гаспадаркі не трымаў пад спудам.* Дуброўскі. *Ведаю.., колькі застаецца пад спудам, не выказанымі ні ў вершах, ні ў нататках, ні ў якой іншай форме, уражанняў і назіранняў у наш неспакойны, мітуслівы час, калі адно набягае на другое.* Вярцінскі. *Недзе ж плеснее ў скрынях пад спудам характво — узоры слуцкай зямлі.* Калачынскі.

*СПУДУ* ● **З-ПАД СП`УДУ.** *Акал. Функц. не зам.* З забыцця (даставаць, вырываць і пад.). *Рэцэпт стары з-пад спуду ў Амерыцы дасталі...* Корбан. *З-пад спуду вырваўшыся, следам выходзіць праўда на прастор.* Аўрамчык. *[Хірург], толькі прыйшоўшы дадому і зняможана ўпаўшы ў крэсла, мае права вызваліць з-пад спуду свае непамерна вялікія пачуцці.* Лобан.

*СПУСКАЦЬ* ● **Д`УХ СПУСК`АЦЬ.** *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паміраць. **Сін**.: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць (ісці) у лепшы свет; адыходзіць у іншы свет; ажаніцца з <сырою> зямлёй; выпростваць ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); духу не ўказваць; загавець душой; загадаць доўга жыць <*каму*> (у 1 знач.);

задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); канькі адкідаць; лажыцца ў магілу; на паповы сані збірацца; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. *Мікіпар вун у твае гады жаніўся, а ты збіраешся дух спускаць...* Юрчанка. **ДУХ СПУСЦІЦЬ.** *Зак. Ад вялікае «падзякі» Райхенау тут жа лёг. Лёг ваяка, дух спусціў (гэтак і быка паваліш), Гебельс свету абвясціў, што яго забіў... паралюш.* Крапіва.

**З ЯЗЫК`А НЕ СПУСК`АЦЬ** *каго, што. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пастаянна гаварыць пра каго-, што-н. **Сін.**: званіць ва ўсе званы (у 1 знач.); як у бубен біць; як у званы званіць. *—На сяле і старое, і малое з языка не спускае, што ты жывеш з гэтым галапупам! — выгукнуў Дарош.* Мурашка. *Маргарыта вельмі многа гаварыла пра новага тэрапеўта, якога прыслалі на месца збеглага Трахімчыка. З языка не спускала Маргарыта тэрапеўта.* Навуменка. *Пра Наташу Жора часценька загаворваў, з языка не спускаў.* Масарэнка. **З ЯЗЫКА НЕ СПУСЦІЦЬ** *каго, што. Зак. Жэнька, дык тая толькі можа ўсміхнуцца і паглядзець на яго [Юрку] сваімі вострымі вачыма. А Света... З языка ўвесь дзень не спусціць. Света — пустабрэх.* Пташнікаў.

**НЕ СПУСК`АЦЬ ВАЧ`ЭЙ (В`ОКА)** *з каго, з чаго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Пільна, уважліва, не адрываючыся глядзець на каго-, што-н. **Сін.**: есці вачамі *каго, што*; не адрываць вачэй *ад каго, ад чаго* (у 2 знач.); не зводзіць вачэй *з каго, з чаго* (у 1 знач.); не спускаць з вачэй *каго, што* (у 1 знач.). *Ну і гэтая Ганна! Уродзіцца ж такая краля. Цяпер, як святло месяца ўпала ёй на твар, ляснік з хвіліну стаяў і не спускаў з дзяўчыны вачэй.* Колас. *Рыгор не спускаў вачэй з вакольных ніў.* Гартны. **НЕ СПУСЦІЦЬ ВАЧЭЙ (ВОКА)** *з каго, з чаго. Зак.*

**2**. Пільна сачыць, назіраць за кім-, чым-н. **Сін.**: не зводзіць вачэй *з каго, з чаго* (у 2 знач.); не спускаць з вачэй *каго, што* (у 2 знач.). *На працягу ўсёй ночы вы будзеце рызыкаваць жыццём кожную хвіліну, бо яны будуць прыдумваць усялякія штукі. Будзьце пільнымі, не спускайце з іх вачэй усю ноч.* Маўр. *Глядзі ва ўсе бакі. Калі што якое — страляй. І з хаты вачэй не спускай.* Мележ. *Маргуной стол стаяў у кутку наўскось, ён як бы знарок так быў пастаўлены, каб загадчык не спускаў вока з мяне.* Сабаленка. **НЕ СПУСЦІЦЬ ВАЧЭЙ (ВОКА)** *з каго, з чаго. Зак. Да вечара будзем ужо на сухім... Вачэй з вас не спушчу, пакуль не вылезем з балота...*

Пташнікаў. *[Анатоль:] Я з іх вока не спушчу цяпер. Басата праклятая!..* Козел.

**НЕ СПУСК`АЦЬ З ВАЧ`ЭЙ ( З В`ОКА)** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Пільна, уважліва, не адрываючыся глядзець на каго-, на што-н. **Сін**.: есці вачамі *каго, што*; не адрываць вачэй *ад каго, ад чаго* (у 2 знач.); не зводзіць вачэй *з каго, з чаго* (у 1 знач.); не спускаць вачэй *з каго, з чаго* (у 1 знач.). *[Кароль:] Але дзе гэта дзелася наша чарадзейка? [Ян:] О, ёсць, пане! Я не спушчаю яе з вока.* Дунін-Марцінкевіч. *Усе гэтыя часы яна не спускала з сваіх вачэй дзіця, часта з ім гаварыла і знаходзіла разрыўку ў бесперапыннай рабоце.* Чорны. **НЕ СПУСЦІЦЬ З ВАЧЭЙ ( З ВОКА)** *каго, што. Зак.*

**2**. Пільна сачыць, назіраць за кім-, чым-н. **Сін**.: не зводзіць вачэй *з каго, з чаго* (у 2 знач.); не спускаць вачэй *з каго, з чаго* (у 2 знач.). *Лёнік застаўся адзін на сваёй варце. Ён не спускаў з вачэй таго месца, дзе знік незнаёмы чалавек, глядзеў на дарогу за хмызняком і на ўсе выхады з хмызняку.* Колас. *Ім памагала нязменна шчырая, спраўная і старанная Вера Засуліч, а таксама не спускаў іх ніколі з вока і Зелянюк, заўсёды гатовы даць патрэбную дапамогу.* Зарэцкі. **НЕ СПУСЦІЦЬ З ВАЧЭЙ ( З ВОКА)** *каго, што. Зак. [Аміля] пачала ўгаворваць яе [дачку] паслухаць Хурса і ехаць з ім. «І я паеду з табой, я цябе з сваіх вачэй не спушчу».* Чорны.

**СПУСКАЦЬ З ВОКА.** Гл. выпускаць.

**СПУСКАЦЬ НОС.** Гл. вешаць.

**СПУСК`АЦЬ НА ТАРМАЗ`АХ** *што. Незак. Разм. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Спыняць, уладжваць што-н. непрыемнае ціха, без шуму. *Іншы раз знаходзяцца спагадлівыя кіраўнікі, якія проста спускаюць на тармазах поўную адказнасць за яўны брак.* «Звязда». **СПУСЦІЦЬ НА ТАРМАЗАХ** *што. Зак. Разважыўшы, прыгадаўшы пэўныя дэталі, Макаед прыйшоў да думкі, што наўрад ці «спусцяць на тармазах» факт амаральнасці галоўнага архітэктара горада.* Шамякін. *Ды ўсё думалася, што на карысць справы на тармазах спусціце...* Карпаў. *Смаляр, канечне ж, касцьмі лёг бы, а замяў бы, спусціў бы на тармазах усё, што адбылося на тым прыкрым сходзе.* Блакіт.

*СПУСКУ* • **НЕ ДАВАЦЬ СПУСКУ** *каму.* Гл. даваць.

*СПУСЦІЎШЫ* • **СПУСЦ`ІЎШЫ РУКАВ`Ы.** *Акал. Разм. Неадабр.* Без належнай стараннасці, абы-як (рабіць што-н.). **Сін**.: абы дзень адбыць; абы дзень да вечара (у 1 знач.); абы з рук; з плеч ды ў печ (у 2 знач.); з пятага на дзесятае (у 2 знач.); па канец рук; праз пятае

ў дзесятае (у 2 знач.); пусці павалюся (у 2 знач.); сяк-так (у 2 знач.); сяк-так накасяк <абы не па-людску>; цапам-лапам; цапу-лапу; цераз пень калоду (у 1 знач.); цяп ды ляп. **Ант**.: душы паслухаючы; з аганьком; закасаўшы рукавы; не пакладаючы рук. *А вось папробуй на цікавасць, стрымай службовую рухавасць, служы спусціўшы рукавы і выкінь службу з галавы, — такія ў лесе выйдуць справы — пажар, парубкі і патравы — не адкараскацца ад ліха.* Колас. *Некаторыя, павер, інстытут кідаюць або вучацца спусціўшы рукавы.* Карпаў.

*СПУСЦІЦЬ* ● **ДУХ СПУСЦІЦЬ.** *Зак. да* **ДУХ СПУСКАЦЬ.**

**З ЯЗЫКА НЕ СПУСЦІЦЬ** *каго, што. Зак. да* **З ЯЗЫКА НЕ СПУСКАЦЬ** *каго, што.*

**НЕ СПУСЦІЦЬ ВАЧЭЙ** *з каго, з чаго. Зак. да* **НЕ СПУСКАЦЬ ВАЧЭЙ** *з каго, з чаго.*

**НЕ СПУСЦІЦЬ З ВАЧЭЙ** *каго, што. Зак. да* **НЕ СПУСКАЦЬ З ВАЧЭЙ** *каго, што.*

**СПУСЦІЦЬ З ВОКА.** Гл. выпускаць.

**СПУСЦ`ІЦЬ (ЗН`ЯЦЬ) СК`УРУ (ШК`УРУ, С`ЕМ ШК`УР)** *з каго. Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Моцна набіць, адлупцаваць каго-н. **Сін**.: даваць гарту *каму* (у 2 знач.); даваць дыхту *каму* (у 2 знач.); даваць жару (у 2 знач.); даваць копаці *каму*; даваць перцу *каму* (у 2 знач.); даваць прыкурыць *каму* (у 2 знач.); даваць пытлю *каму* (у 2 знач.); даваць у косці *каму* (у 2 знач.); даваць у скуру *каму*; даваць чапаласу *каму* (у 2 знач.); даваць чосу *каму* (у 2 знач.); даць па зубах *каму*; даць па карку *каму*; задаваць фефару *каму*; мыліць шыю *каму* (у 1 знач.); намяць бакі *каму*; па сцяне размазваць *каго*; прапісаць іжыцу *каму*; усыпаць гарачых *каму*; чартоў ганяць. *Але вучыцца мне без дуру, а не — як з гада спушчу скуру!* Колас. *[Гыль:] А калі збрэшаш, няпраўду скажаш, даю слова, старасць тваю не пашкадую, скуру спушчу! Вось і ўсё. Можаш ісці.* Шушкевіч. *—Ппакоп! —Цівун пагразіў бізуном. —З панам не жартуй! Не прывядзеш [сына] — сем шкур спушчу!..* Якімовіч. *[Макар:] Я з цябе дурасць выб’ю. Бач ты, у школу не пайду! Навука яму не трэба! А што ж табе трэба? Што? Не, браце. Сем шкур здыму, а вывучу цябе.* Жычка.

**2**. Рэзка прабраць, пакараць каго-н. **Сін**.: браць пад абстрэл *каго, што*; браць у абарот *каго* (у 2 знач.), браць у пераплёт *каго* (у 2 знач.); браць у работу *каго* (у 2 знач.); браць у шоры *каго* (у 2 знач.); выганяць матыліцу з *каго*; выціскаць пот *з каго* (у 2 знач.); даваць гарту *каму* (у 1 знач.); даваць гонку *каму*; даваць дыхту *каму* (у 1 знач.); даваць жару *каму* (у 1 знач.); даваць перцу *каму* (у 1 знач.);

даваць піць *каму*; даваць прыкурыць *каму* (у 1 знач.); даваць пытлю *каму* (у 1 знач.); даваць у косці *каму* (у 1 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 1 знач.); даваць чосу *каму* (у 1 знач.); задаваць пары *каму*; здымаць стружку *з каго*; мыліць галаву *каму*; мыліць шыю *каму* (у 2 знач.); накруціць хвост *каму*; паддаваць жару *каму* (у 1 знач.); прадзіраць з пясочкам *каго*; усыпаць перцу *каму*. *О-о-о, дык ты гару работы перавярнуў! Помні, за сілас скуру спушчу!* Лобан. *[Камандзір:] А ты ў мяне наклічаш бяды. Я з цябе скуру спушчу за твае штучкі. Папомніш...* Быкаў. *—Ну-ну... Пакрываеш?! — Фарафонаў крычаў, тупаючы нагамі ў парозе. —Я з вас з усіх шкуру спушчу.* Пташнікаў.

**СПУСЦІЦЬ НА ТАРМАЗАХ** *што. Зак. да* **СПУСКАЦЬ НА ТАРМАЗАХ** *што.*

**СПУСЦІЦЬ НОС.** *Зак. да* **СПУСКАЦЬ НОС.**

*СПЯВАЕ* ● **ДУША СПЯВАЕ** *ў каго, чыя.* Гл. душа.

*СПЯВАЙ* ● **ХОЦЬ Р`ЭПКУ СПЯВ`АЙ (П`ЕЙ).** *Толькі ў гэтай форме. Устар. Акал. ці ў знач. вык. Разм.* Склалася цяжкае, бязвыхаднае становішча. Выказванне адчаю, бяссілля. **Сін**.: хоць воўкам вый; хоць <ты> гвалт крычы; хоць ты макам садзіся; хоць <ты> плач. *Горка, горка давядзецца, ты старога запытай. Ой, часамі так прыпрэцца, што хоць рэпачку спявай!* Колас. *Яго палажэнне хоць рэпку пей.* Юрчанка.

*СПЯВАЦЬ* ● **СПЯВАЦЬ ДЫФІРАМБЫ** *каму, чаму.* Гл. пець.

**СПЯВАЦЬ ЛАЗАРА.** Гл. пець.

**СПЯВ`АЦЬ НА ХЛ`ЕБ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Збіраць міластыню, жабраваць. — *Пайшлі, Арсень, — рашуча рыкнуў Шлык, — абыдземся без гэтага салапёкі, каб ён на хлеб спяваў*. Караткевіч. *На памінках напіўся — і спяваць. Спяваў бы ты на хлеб, гад печаны.* Янкоўскі.

**СПЯВ`АЦЬ (П`ЕЦЬ) АС`АННУ** *каму, чаму. Устар. Кніжн. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Празмерна ўсхваляць, вельмі ўзносіць каго-, што-н. **Сін**.: курыць фіміям *каму*; падымаць на шчыт *каго*; пець дыфірамбы *каму, чаму*; спяваць песні *каму*; узносіць да нябёс *каго, што. Не хацелася [Удо] стаць фюрэрам па вельмі простай і, на першы погляд, нават смешнай прычыне. Дзесяць гадоў спатрэбіцца, каб даперці да ўлады і прымусіць усіх спяваць сабе асанну, яшчэ дзесяць на ўзмацненне магутнасці.* Марчук. *Народ, не верачы газетам, пра яблыневы марыў сад... Быў шанец мо галоўны самы, адзін за гэтулькі вякоў, ужо спявалі мы асанну!* Тармола-Мірскі.

**СПЯВ`АЦЬ (П`ЕЦЬ) З Г`ОЛАСУ** *чыйго. Незак. Функц. не зам.*

*Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не маючы ўласных перакананняў, падпарадкоўвацца чыёй-н. волі, паўтараючы сказанае кім-н. **Сін**.: глядзець вачамі *чыімі, каго на каго, на што*; іграць у дудку *чыю, каго, каму*; цягнуць руку *чыю, каго. Паслухаў Кандрат. Свайму крытыку ўраз дае сакрушальнае сілы адказ: «Бязглуздыя ўсе разважанні твае — не з нашага голасу, чую, пяеш!.»* Маеўскі. *Што ні выданне, то нечы орган, які спявае з голасу свайго гаспадара.* Макаловіч.

**СПЯВ`АЦЬ (П`ЕЦЬ) З ЧУЖ`ОГА Г`ОЛАСУ.** *Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Паўтараць тое, што ўжо сказана кім-н. іншым. *Як рэкі нясуць свае воды ў акіян, так кожны самабытны мастак да агульных скарбаў дадае створаныя ім мастацкія каштоўнасці. Паэту не па сэрцы той, хто спявае з чужога голасу.* Шкраба.

**2**. Не маючы ўласных перакананняў, выконваць чужую волю, паўтараючы раней сказанае іншымі. *Вядома, народная ўлада ў хуткім часе высветліла, што боскі служка Пабла Вега пяе з чужога голасу.* «Звязда». *—А яшчэ больш небяспечны, — вёў сваё Васіль Пятровіч, — людзі, якія, як шпакі, спяваюць з чужога голасу. О, гэтыя кан'юнктуршчыкі-шпакі!..* Карпаў.

**СПЯВ`АЦЬ (П`ЕЦЬ) П`ЕСНІ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Празмерна ўсхваляць, вельмі ўзносіць каго-н. **Сін**.: курыць фіміям *каму*; падымаць на шчыт *каго*; пець дыфірамбы *каму, чаму*; спяваць асанну *каму, чаму*; узносіць да нябёс *каго, што. —Вось вам спяваюць песні пра Кракаў, — пачаў гутарку Баўдзей, але вы пабачыце гэты Кракаў тады, калі ўкусіце сябе за локаць.* Колас. *[Ірына:] Пры чым тут я? Я такія справы не рашаю. [Клаўдзія:] Няпраўда. Можаш рашаць. Я чула, якія табе песні Сокалаў спяваў. [Ірына:] Не смей пра гэта!* Палескі.

*СПЯВАЮЦЬ* • **САЛАЎІ СПЯВАЮЦЬ У ЖЫВАЦЕ** *ў каго, чыім.* Гл. салаўі.

*СПЯЧЫ* • **СПЯЧЫ РАКАЎ.** Гл. пячы.

*СПЯЧЭЦЦА* • **ЖАБА НА ЯЗЫКУ НЕ СПЯЧЭЦЦА** *ў каго.* Гл. жаба.

*СРЭБРАНІКАЎ* • **ТРЫЦЦАЦЬ СРЭБРАНІКАЎ.** Гл. трыццаць.

*ССАЦЬ* • **ССАЦЬ КРОЎ** *з каго, чыю.* Гл. піць.

*СТАВАЛА* • **ЯШЧЭ ТОЛЬКІ НЕ СТАВАЛА** *каго, чаго.* Гл. хапала.

*СТАВІЦЦА* • **СТ`АВІЦЦА ДАГАР`Ы НАГ`АМІ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Змяняцца карэнным чынам, ператвараючыся ў сваю процілегласць. **Сін**.: пераварочвацца дагары нагамі; пераварочвацца ўверх дном; ставіцца з ног на галаву. **ПАСТАВІЦЦА ДАГАРЫ НАГАМІ.** *Зак. Усё*

*зблытвалася ў галаве, усё, што дагэтуль было ясным, зразумелым, лагічным, змяшалася, паставілася дагары нагамі.* Хомчанка.

**СТАВЩЦА ЗНАК РОЎНАСЦІ** *паміж кім, паміж чым.* Гл. знак.

**СТ`АВІЦЦА НА К`АРТУ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Падвяргацца рызыцы, небяспецы. **Сін**.: ставіцца на кон. *Старэеш, і нервы распусціў, і язык. Ды ў такі час, калі, мабыць, лёс твой ставіцца на карту.* Хадкевіч. *Усё, што дабыта, калі на карту ставілася жыццё, беспаваротна знікае.* Карпюк. *На карту тут ставілася ўсё — абы толькі выжыць.* «ЛіМ».

**СТ`АВІЦЦА НА К`ОН.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Падвяргацца рызыцы, небяспецы дзеля якой-н. выгады. **Сін**.: ставіцца на карту. *Не шкадуюць асобныя ўладальнікі мандатаў ні свайго звання, ні прэстыжу, ні чысціні службовых мундзіраў. Усё ставіцца на кон з-за глытка, што прыносіць уяўную весялосць сёння і шматлікія непрыемнасці заўтра.* «Вожык».

**СТ`АВІЦЦА (СТАНАВ`ІЦЦА) З Н`ОГ НА ГАЛАВ`У.** *Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Змяняцца карэнным чынам, ператвараючыся ў сваю процілегласць. **Сін**.: пераварочвацца дагары нагамі; пераварочвацца ўверх дном; ставіцца дагары нагамі. *Купала не мог чытаць спакойна. У артыкуле пра Зарэцкага ўсё ставілася з ног на галаву.* Лойка. *Словы, здаецца, такія нейтральныя. Але як.. усё становіцца з ног на галаву!* Кірэенка. *—Ці не гэтымі махінацыямі зацікавіўся Рамейка? — занепакоіўся Корзун. —Тады ўся гісторыя з ног на галаву становіцца.* Шыцік.

*СТАВІЦЬ* ● **<І, НІ> У ГР`ОШ НЕ СТ`АВІЦЬ** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зусім не лічыцца з кім-, чым-н., адносіцца з пагардай да каго-, чаго-н. *Пан Крупскі пагарджае сваім аканомам Гендарсанам, той і ў грош не ставіць малінаўскую шляхту.* Чарнышэвіч. *[Жыгліцкая:] А жонка і ў грош не ставіць яго: што хоча, тое і вытварае.* Козел. *Не ведаю, чаму настаўніца, якая ні ў грош мяне не ставіла, раптам так высока ацаніла мой голас.* Навуменка. *Дзед Талаш у грош не ставіць паноў і начальства...* Колас. *«Калі ты, сынок, такі, калі матку ў грош не ставіш, калі табе нейкае сапліваe дзяўчо даражэй за яе, дык жыві з ёю, паглядзім: ці надоўга цябе хопіць», — гаварыла сама сабе Тося.* Арабей.

**КЛЯЙМА СТАВІЦЬ НЯМА ДЗЕ** *на кім.* Гл. няма.

**СТ`АВІЦЬ В`ОЗ НАП`ЕРАДЗЕ КАНЯ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці зборн. знач. Змяніць што-н. карэнным чынам, робячы не так, як належыць, скажаючы што-н. **Сін.:**

пераварочваць дагары нагамі *што* (у 2 знач.); пераварочваць уверх дном *што* (у 2 знач.); ставіць з ног на галаву *што* (у 1 знач.). *У розны час розныя навукоўцы, не зважаючы на сведчанні летапісаў, хронік, упарта перакручвалі факты, ставілі, як кажа наша прымаўка, воз наперадзе каня.* «Наша сл.» *Было б не зусім правільна лічыць, быццам тыя, хто ставяць воз наперадзе каня, наіўныя і не здагадваюцца пра ўразлівасць сваёй пазіцыі.* «Дзеяслоў». **ПАСТАВІЦЬ ВОЗ НАПЕРАДЗЕ КАНЯ.** *Зак. Я прыйшоў да высновы: начальства аказалася не падрыхтаваным да вырашэння гэтай праблемы [звязанай з Годам навядзення парадку на зямлі], паставіла воз наперадзе каня.* «Нар. воля».

**СТ`АВІЦЬ ДА СЦ`ЕНКІ (ДА СЦЯН`Ы)** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Расстрэльваць. **Сін**.: адпраўляць у штаб духоніна *каго*; выводзіць у расход *каго*; пускаць да бога *каго*; пускаць кулю ў лоб *каму*; пускаць на той свет *каго*; пускаць у царства нябеснае *каго. — Вы залішне перабольшваеце, да сценкі ставіць вас я не збіраюся, але рашылі правільна, — сказаў Чубар.* Чыгрынаў. *Паверыць, вядома, не паверыў бы, але ж без праверкі да сценкі не ставіў бы.* Новікаў. *—Я цябе не падсаджваў... —Можа, і да сцяны нікога не ставіў, а? Ні Лявона нашага, ні Хведара, ні Уладзіка? Усіх, хто не здаў немцам зброю.* Кудравец. **ПАСТАВІЦЬ ДА СЦЕНКІ (ДА СЦЯНЫ)** *каго. Зак. Урэшце, ніхто мяне да сценкі не паставіць, калі я і не знайду ў Машовай патрэбнай сувязі...* «Маладосць».

**СТ`АВІЦЬ З ГАЛАВ`Ы НА Н`ОГІ** *што. Незак. Функц. не зам. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Вяртаць чаму-н. належны парадак, стан і пад. *Гэты доказ усё ставіў з галавы на ногі. Калі галоўны інжынер просіць асабіста за хлопца, значыць, ён зацікаўлены ў ягоным лёсе.* Радкевіч. **ПАСТАВІЦЬ З ГАЛАВЫ НА НОГІ** *што. Зак. [Сіман:] Каб у судзе дабіцца праўды, трэба перавярнуць свет дагары нагамі, дакладней кажучы, паставіць з галавы на ногі.* Клімковіч. *—Нішто сабе парадкі... —Вось такія... Не шкодзіла б тое-сёе паставіць з галавы на ногі.* Ярашэвіч.

**СТ`АВІЦЬ ЗН`АК Р`ОЎНАСЦІ** *паміж кім, паміж чым. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Лічыць каго-, што-н. зусім аднолькавым, раўнацэнным, падобным. **Сін**.: адным махам семярых забіяхам (у 1 знач.); мераць адной меркай *каго, што*; мераць на адзін аршын *каго, што*; мераць на адзін капыл *каго, што*; ставіць на адну дошку *каго з кім, што з чым, каго і каго, што і што*; ставіць у адзін рад *каго з кім*; стрыгчы пад адзін грабянец

*каго. У вобразе Дзіміна Івана Міхайлавіча выразна бачыцца воблік Дзёміна. Аднак нельга ставіць паміж імі знак роўнасці.* «ЛіМ». *Сутнасць у іншым: каб не ставіць знак роўнасці паміж дзелавітасцю і маральнасцю.* Цяжкі. **ПАСТАВІЦЬ ЗНАК РОЎНАСЦІ** *паміж кім, паміж чым. Зак. Я паставіў бы знак роўнасці паміж словамі — перабудова і рэвалюцыя.* «Полымя».

**СТ`АВІЦЬ З Н`ОГ НА ГАЛАВ`У** *што. Незак. Функц. не зам. Часцей неадабр.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Змяняць што-н. карэнным чынам. **Сін**.: пераварочваць дагары нагамі *што* (у 2 знач.); пераварочваць уверх дном *што* (у 2 знач.); ставіць воз наперадзе каня. *[Туманава:] Галубчык, вы ўсё ставіце з ног на галаву... Успомніце — памяць у мяне выдатная, — я папрасіла вас разабрацца, параіць Бабачкіну паводзіць сябе больш сціпла.* Дзялендзік. *Ананімка сфабрыкавана з яўным намерам не толькі кінуць цень на чалавека, але і мець з гэтага нейкую карысць. Інакш навошта было ставіць ўсё з ног на галаву.* Праскураў. **ПАСТАВІЦЬ З НОГ НА ГАЛАВУ** *што. Зак. [Сашка] ведаў адно: як бы там ні планаваў наперад сваё жыццё, як бы дакладна і цвёрда ні вывяраў курс, нейкая выпадковасць, дурная дробязь у адзін момант могуць паставіць усё з ног на галаву, развеяць ушчэнт твае самыя высакародныя памкненні...* Радкевіч.

2. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даводзіць што-н. да поўнага беспарадку, хаатычнага стану; ператрасаць што-н. **Сін**.: пераварочваць дагары нагамі *што* (у 1 знач.); пераварочваць уверх дном *што* (у 1 знач.). **ПАСТАВІЦЬ З НОГ НА ГАЛАВУ** *што. Зак. [Драч:] Калі што, мы ўвесь Піцер з ног на галаву паставім, а знойдзем гада!* Губарэвіч.

**СТ`АВІЦЬ КАЛ`ОМ В`ОЧЫ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Злосна, выяўляючы варожасць, глядзець на каго-н. **ПАСТАВІЦЬ КАЛОМ ВОЧЫ.** *Зак. Паставіўшы калом вочы, дзябёлыя дзецюкі ўчапіліся адзін аднаму ў нячэсаныя касмылі.* Сіманоўскі. *Як паставіць калом вочы — здэцца, усю душу выверне.* «Полымя».

**СТ`АВІЦЬ КР`ОПКІ НАД «І».** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Канчаткова высвятляць усё, не пакідаючы нічога недагаворанага, даводзячы ўсё да лагічнага канца. **Сін**.: ставіць усё на <сваё> месца. *У старых п’есах была роля — рэзанёра, чалавека больш вопытнага і мудрага, чым астатнія, адным словам, які любіў ставіць кропкі над «і». Дык я часам адчуваю сябе гэткім рэзанёрам, разглядаю людзей як бы збоку, даю ім ацэнкі. Але чаго не ўмею і, здаецца, не навучуся —*

*ставіць кропкі над «і».* Радкевіч. *Зарэцкі не зважаў ні на якія довады, ён гаварыў усё да канца: ставіў кропкі над «і».* Лойка. **ПАСТАВІЦЬ КРОПКІ НАД «І».** *Зак. А звёўшы іх [турыстаў] на вочную стаўку, следчаму зусім не цяжка было паставіць кропкі над «і».* Кавалёў. *Гісторыя ўрэшце развважыць, паставіць кропкі над «і».* «ЛіМ».

**СТ`АВІЦЬ КР`ОПКУ** *на чым, над чым, у чым. Незак. Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Завяршаць што-н., даводзіць выкананне чаго-н. да канца. **ПАСТАВІЦЬ КРОПКУ** *на чым, над чым, у чым. Зак. «Казкі жыцця» былі яго заўсёдная рупнасць. —Тут не магу паставіць кропку. Дый, відаць, і не пастаўлю, — гаварыў Канстанцін Міхайлавіч не раз і не мне аднаму.* Лужанін. *Лягчэй было б так і закончыць гэты ўспамін. Ды мне здаецца, што тут паставіць кропку я не маю права.* Брыль.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Спыняць што-н. **Сін**.: падводзіць рысу (у 1 знач.); пакласці канец *чаму. Я баюся зірнуць на сябра. Выходзіла, што гэтае пісьмо ставіла кропку над яго задумай, перакрэслівала ўсе нашы планы.* Шыловіч. *Безумоўна, ставіць кропку ў гісторыі з чэхаўскімі пісьмамі да Булгарэвіча рана.* «ЛіМ». **ПАСТАВІЦЬ КРОПКУ** *на чым, над чым, у чым. Зак. Хтосьці казаў: самае важнае — паставіць у час кропку.* Мележ. *Макар Сідаронак неяк хутка асвойтаўся. Спачатку яму здавалася, што першая ж бомба паставіць кропку на ягоным жыцці.* Асіпенка.

**СТ`АВІЦЬ КР`ЫЖ** *на кім, на чым, над чым. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Траціць усякую надзею на каго-, што-н., адмаўляцца ад каго-, чаго-н. **Сін**.: махнуць рукой *на каго, на што*; паварочвацца спінай *да каго, да чаго*; паварочваць спіну *да каго, да чаго.* **Ант**.: паварочвацца тварам *да каго, да чаго. Стаў, Валодзька, крыж на сваім каханні. Паравознік гэты — хват, ля яго такі ласунак блізка не кладзі — сцягне і не аблізнецца, як хітры кот.* Шамякін. *Сёння я над гэтакім каханнем раз і назаўсёды стаўлю крыж.* Непачаловіч. **ПАСТАВІЦЬ КРЫЖ** *на кім, на чым, над чым. Зак. Я крыж паставіў над былым, і да яго няма звароту!* Колас. *Не сказала... А чаму не сказала? От то-то і яно... Ёсць над чым паламаць галаву. Або паставіла на мне крыж — раз і назаўсёды... Або... Або...* Міськo.

**СТ`АВІЦЬ МАЗГ`І НА М`ЕСЦА** *каму. Незак. Прост.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рашучымі, крайнімі дзеяннямі прымушаць каго-н. адумацца, змяніць паводзіны і пад. **Сін**.: упраўляць мазгі *каму.* **ПАСТАВІЦЬ МАЗГІ НА МЕСЦА** *каму. Зак. А яму скажы —*

*хоча жыць, то няхай трымае язык за зубамі. А не — мазгі на месца пастаўлю!* Лецка.

**СТ`АВІЦЬ НА АДН`У Д`ОШКУ (Р`ОЎНІЦУ)** *каго з кім, што з чым, каго і каго, што і што. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прызнаваць роўным, аднолькавым у якіх-н. адносінах. **Сін.**: адным махам семярых забіяхам (у 1 знач); мераць адной меркай *каго, што*; мераць на адзін аршын *каго, што*; мераць на адзін капыл *каго, што*; ставіць знак роўнасці *паміж кім, паміж чым*; ставіць у адзін рад *каго з кім. Панам Длугошыцу, Дэмбіцкаму і іншым панам не дужа спадабалася, што Галініч ставіць на адну роўніцу польскі народ з беларускім.* Колас. *Хіба такога можна ставіць на адну дошку з Тарашкевічам або з іншымі нашымі пасламі?* Машара. *Гіжэўскаму на момант стала прыкра: Спірыдон ставіць яго на адну дошку з сабою, лічыць сваім чалавекам.* Пальчэўскі. **ПАСТАВІЦЬ НА АДНУ ДОШКУ (РОЎНІЦУ)** *каго з кім, што з чым, каго і каго, што і што. Зак. —Праверце інструменты, — загадаў Ніне Смірніцкі, як быццам незадаволены тым, што Позняк паставіў Ніну на адну роўніцу з ім.* Шахавец. *І хочаце на адну дошку паставіць гультаёў і гаспадароў, — не, нічога не будзе...* Дайліда.

**СТ`АВІЦЬ НА В`ІД** *каму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіць заўвагу каму-н. **ПАСТАВІЦЬ НА ВІД** *каму. Ну, памыліўся хлопец, даць яму вымову ці на від паставіць, ды і па тым.* Зарэцкі. *—Без вымовы не павязу... —А з «паставіць на від» павязеш?* Шахавец.

**СТ`АВІЦЬ НА ВУШЫ** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Прымушаць актыўна, энергічна дзейнічаць. **Сін.**: ставіць на ногі (у 5 знач.); падымаць на ногі (у 4 знач.). *Атрымаўшы такі жорсткі ўрок, разважлівым людзям варта было б у якасці прэвентыўных мер не армію ставіць на вушы...* Якавенка. **ПАСТАВІЦЬ НА ВУШЫ** *каго, што. Зак. Каб набыць сорак «грыўнаў», трэба было ўвесь рынак на вушы паставіць. А зараз тысячу баксаў за дзень памяняю – і гэта норма.* «Маладосць».. *Мае... красаўцы – скубуцца як не штодня, чубяць адно аднаго. Узяў сынок красуню. Я ўскіпячуся – хапаюся зёлкі піць, і толькі тады ўжо яна змаўкае... Як жа – свякруху на вушы паставіла, солі ў душу сыпанула.* Масарэнка.

**СТ`АВІЦЬ НА ДЫВ`АН** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Прымушаць трымаць адказ на якія-н. прэтэнзіі, заўвагі і пад. **ПАСТАВІЦЬ НА ДЫВАН** *каго. Зак.*

*Упершыню ўсмешка скрывіла вусны нечым моцна заклапочанага чалавека... —Усе мы смелыя, пакуль нас не паставяць на дыван.* Шамякін.

**СТ`АВІЦЬ НА КАЛ`ЕНІ** *каго, што. Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, сукупнасці асоб ці абстр. прадмета. Прымушаць скарыцца, падпарадкавацца. *Амаль што маршам праходзілі фашысты па краінах, армію за арміяй ставілі на калені.* «ЛіМ». **ПАСТАВІЦЬ НА КАЛЕНІ** *каго, што. Зак. Мы, пакуль жывём, не скорымся, ніхто нас не паставіць на калені.* Сачанка. *Не спраўдзіўся разлік крывавага ворага — жахлівымі разбурэннямі, смерцю і крывёю, расправамі з дзецьмі і старымі, запалохваннем, хлуслівай прапагандай — паставіць савецкіх людзей на калені.* Шкраба. *Чым закончылася спроба Злучаных Штатаў паставіць в’етнамскі народ на калені — вядома добра.* «Звязда».

**СТ`АВІЦЬ НА К`АРТУ** *што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Рызыкаваць чым-н. дзеля якога-н. выйгрышу. **Сін**.: ставіць на кон *што. А сёння ўсхваляваны не на жарты: няўжо бяздумна ставім мы на карту сваё жыццё, жыццё сваіх салдатаў?* Бачыла. **ПАСТАВІЦЬ НА КАРТУ** *што. Зак. Ды ўрэшце паставілі жыццё на карту: такую лазню наладзілі для чужаедаў, якой яшчэ свет ніколі не ведаў.* Крапіва. *Назіраючы, з якой страшэннай сілай вылятаюць іскры з ваграні і як узрываюцца, ударыўшы ў сцяну, ён [Міхал] халадзеў — на карту быў пастаўлены не адзін яго аўтарытэт.* Карпаў.

**СТ`АВІЦЬ НА К`ОН** *што. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рызыкаваць чым-н. дзеля якога-н. выйгрышу. **Сін**.: ставіць на карту *што. Напрадвесні, ставячы на кон жыццё, яна сама арганізавала ўцёкі палонных.* Карпаў. **ПАСТАВІЦЬ НА КОН** *што. Зак. У часе вайны Уліма, паставіўшы на кон сваё жыццё, жыццё свайго хваравітага мужа Мікалая, свайго маленькага сына Міфодзі, бегла на былую заставу дагледзець параненых лётчыкаў, перавязаць іх раны.* «ЛіМ». *А тут жыццё пастаўлена на кон. А жыццё яе цяпер патрэбна не толькі ёй і маленькай Светцы.* Шамякін.

**СТ`АВІЦЬ НА КРЫЛ`О** *каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Расціць, выхоўваць, даводзячы да самастойнасці. **Сін.**: падняць на крыло (у 2 знач.); падымаць на ногі (у 2 знач.); ставіць на ногі (у 2 знач.). *Італьянскі настаўнік выхоўвае і ставіць на крыло сапраўдную змену сапраўднай нацыі. Таму колькасць урокаў на тыдзень – самая мізэрная.* «Роднае сл.» **ПАСТАВІЦЬ НА КРЫЛО** *каго. Зак. Знакаміты крытык, бы*

*птушанят, паставіў на крыло цэлае паэтычнае пакаленне.* «Полымя».

**СТ`АВІЦЬ <Б`ОГУ> СВ`ЕЧКУ.** *Незак. Разм. Часта іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дзякаваць лёсу за добры зыход чаго-н. *Ляжы ціха, мурзаты, зараз трэба ісці. Потым яшчэ падкармлю, не крывіся! Стаў богу свечку, што на мяне трапіў, тут, пад купецкімі ганкамі, ты, напэўна, і кончыўся б!* Самуйлёнак. **ПАСТАВІЦЬ <БОГУ> СВЕЧКУ.** *Зак. —Пастаў цяпер ты богу свечку, за цэп бярыся ды за грэчку, «начатку» ж сунь ідзі пад стрэху! — І аж заходзіцца [дзядзька] ад смеху.* Колас. *Скажы дзякуй, барон, гуманістам. Пастаў свечку за іх здароўе. Бяжы! Запомні, як гарыць наша зямля пад тваімі нагамі.* Шамякін.

**СТ`АВІЦЬ НА Р`ЭЙКІ** *якія, чаго што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Арганізоўваць, накіроўваць, перабудоўваць што-н. пэўным чынам. **Сін**.: пераводзіць на рэйкі *чаго, якія.* **ПАСТАВІЦЬ НА РЭЙКІ** *якія, чаго што. Зак. І, як ні крыўдна, гарачыя водгукі, якія выказвалі дапісчыкі, заклікаючы да дзеянняў, не абудзілі належнага жадання паставіць справу на дзяржаўныя рэйкі — вярнуць краіне старую раку.* Лужанін.

**СТ`АВІЦЬ НА СВА`ІМ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дамагацца здзяйснення свайго намеру, жадання. *Перамогшы раз, ды так рашуча, яна і ў далейшым заўсёды дабівалася перамогі і ўсё ставіла на сваім.* Дуброўскі. **ПАСТАВІЦЬ НА СВАІМ.** *Зак. «Не, ні за што не папушчуся, на сваім пастаўлю!» — рашыў Мікола.* Гартны. *—Вось упёрся бацька, не хоча хаўруснай малатарні, і што ж ты яму зробіш? — Зраблю. Калі наважыў, дык на сваім пастаўлю.* Крапіва.

**СТ`АВІЦЬ ПАД АБ`УХ** *каго. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ствараць пагрозлівае, крытычнае становішча для каго-н. **Сін**.: без нажа рэзаць *каго*; падводзіць пад абух *каго*; падстаўляць пад удар *каго. Ды хутчэй вы згаджайцеся, дзядзька. А родненькі, ды не стаўце вы ні сябе, ні нас пад абух!* Лынькоў.

**СТ`АВІЦЬ ПАДН`ОЖКУ** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Знарок шкодзіць, рабіць непрыемнасці каму-н. **Сін**.: даваць падножку *каму*; заступаць дарогу *каму*; падстаўляць ножку *каму*; перабягаць дарогу *каму*; псаваць абедню *каму*; ставіць палкі ў кола *каму, чаму*; станавіцца на дарозе *чыёй, каму, чаму*; станавіцца папярок дарогі *каму, чыёй*;

стаяць на дарозе *чыёй, у каго*; стаяць папярок дарогі *каму, каго.* **Ант**.: саступаць з дарогі (у 2 знач.); сыходзіць з дарогі. *—Ты, пэўна, і не ведаеш, што табе Васіль Бераг ставіць падножку, — заўважыў Сёмка. —У чым?.. —Зарыцца на Зосю!* Гартны. *Тых, што ставяць падножку сумежнікам, дэзарганізуюць рытм эканомікі, як бачым, яшчэ нямала.* «Звязда». *Аказваецца, жыццё ставіць падножку і там, дзе яе не чакаеш.* Дзятлаў.

**СТАВІЦЬ ПАД УДАР** *каго, што.* Гл. падстаўляць.

**СТ`АВІЦЬ ПЫТ`АННЕ Р`УБАМ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Заяўляць, гаварыць пра што-н. катэгарычна, рашуча. *Аўтар скаргі ў рэдакцыю ставіць пытанне рубам: мне павінны завезці брыкет.* «Настаўн. газ.» *[Мікалай Сяргеевіч:] Лявон Сцяпанавіч пытанне ставіць рубам.* Макаёнак. **ПАСТАВІЦЬ ПЫТАННЕ РУБАМ.** *Зак. Маладзы, з рашучым, хударлявым тварам.. старшыня райвыканкома паставіў пытанне рубам: чаму дасюль не спыняецца знішчэнне жывёлы!* Мележ. *Міхась Антонавіч паставіў пытанне рубам. Ён практык. Яму дастань ды пакладзі на стол — іначай няма веры.* Асіпенка.

**СТ`АВІЦЬ (СТАНАВ`ІЦЬ) НА Н`ОГІ.** *Незак. Функц. не зам.* **1**. *каго.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці рэчыўнага прадмета. Вылечваць. **Сін**.: падымаць на ногі (у 1 знач.). **Ант**.: валіць з ног *каго* (у 2 знач.). **ПАСТАВІЦЬ НА НОГІ** *каго. Зак. Ну як я пакіну параненага хлопца, не паставіўшы яго на ногі?..* Грахоўскі. *[Рабіна:] Няхай мядком падмацуецца! Мае зёлкі яго хутка на ногі паставяць.* В.Вольскі.

**2**. *каго.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Расціць, даводзячы да самастойнасці. **Сін**.: падымаць на ногі (у 2 знач.); ставіць на крыло *каго. Ты, Ганна, менш пра гэта думай. Ладзь жыццё сваё як лепш, Сымона на ногі станаві. Хлопец ён у цябе — слова дрэннага не скажаш.* Цяжкі. **ПАСТАВІЦЬ НА НОГІ** *каго. Зак. Што ты гэта кажаш? А? Хто коней на ногі паставіў? Хто варанога гадаваў? Хто з саду прыбытак здабываў?* Самуйлёнак.

**3**. *што.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Умацоўваць, рабіць больш трывалым, незалежным што-н. **Сін**.: падымаць на ногі (у 3 знач.). **ПАСТАВІЦЬ НА НОГІ** *што. Зак. Махнач.. крычаў, што яго няправільна знялі са старшынства, што ён паставіў калгас на ногі, а яму вось як аддзякавалі...* Шамякін. *Цяпер гаспадарку трохі паставіў на ногі, а паеду — разваліцца ўсё!..* Каваль. *«Сымона-музыку», казаў аўтар, паставілі на ногі лірычныя адступленні.* Лужанін.

**4**. *што.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ліквідаваць

пашкоджанне, паломку ў чым-н.; рабіць рамонт чаго-н. **ПАСТАВІЦЬ НА НОГІ** *што. Зак. Трэба зрабіць перапынак. Хай адпачнуць, павячэраюць. Тады і паставім паравоз на ногі.* Шынклер. *З машынай у Тоніка атрымалася так: дастаўся яму старэнькі, дабіты і нутром і кузавам грузавічок, да якога ўжо з год ніхто не дакранаўся. Умова была простая: паставіш на ногі — сядай і шуруй!..* Ракітны.

**5**. *каго, што.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Прымушаць актыўна, энергічна дзейнічаць. **Сін**.: падымаць на ногі (у 4 знач.); ставіць на вушы *каго, што. Дзе гэта сіла, дзе моц тая, што перашкод сабе не мае і ставіць зразу ўсіх на ногі, вядзе на вольныя дарогі і свет прасторны адчыняе?* Колас. **ПАСТАВІЦЬ НА НОГІ** *каго, што. Зак. [Біруля:] Добра! Зусім добра. Не ведаю, як і дзякаваць... Вы ўсіх дактароў, можна сказаць, на ногі паставілі. [Грамовіч:] Ну, Сымон Вікенцьевіч, як жа інакш... За ваша здароўе сам нарком трывожыцца.* Шынклер.

**СТ`АВІЦЬ СЯБ`Е НА М`ЕСЦА** *чыё, каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Уяўляць сябе ў чыім-н. становішчы. **Сін**.: улазіць у скуру *чыю. Спрачаючыся раней з бацькам, ён мала думаў аб ім асабіста і ніколі не ставіў сябе на ягонае месца.* Карпаў. **ПАСТАВІЦЬ СЯБЕ НА МЕСЦА** *чыё, каго. Зак. —Справа, бачыш ты, далікатная, — становіцца на шлях разважання разважлівы Бруй. —Вы пастаўце сябе на яго месца — хутка і не зробіш тут. Гэта не тое, што ўзяў цэп і пайшоў малаціць.* Колас. *—Пастаўце сябе на маё месца, — развažаў Пальчык, ужо крыху асвоіўшыся. —Як гэта я ні з таго ні з сяго прыйду да вас і скажу: прызнавайся, ты мой бацька ці не?* Дамашэвіч.

**СТ`АВІЦЬ У АДЗ`ІН Р`АД** *каго з кім. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прызнаваць роўным, аднолькавым у якіх-н. адносінах. **Сін**.: адным махам семярых забіяхам (у 1 знач.); мераць адной меркай *каго, што*; мераць на адзін аршын *каго, што*; мераць на адзін капыл *каго, што*; ставіць знак роўнасці *паміж кім, паміж чым*; ставіць на адну дошку *каго з кім, што з чым, каго і каго, што і што*; стрыгчы пад адзін грабянец *каго. —Ставяць нас у адзін рад з алкаголікамі, — Віктар пагардліва скрывіўся. —Тут, у нашым аддзяленні, лечаць і алкашоў, дык мы з Аляксеем з імі не размаўляем.* «ЛіМ». **ПАСТАВІЦЬ У АДЗІН РАД** *каго з кім. Зак. Супакойся, таварыш Навуменка. Панцеляймон Мікалаевіч і мяне з табой у адзін рад паставіў — вось да чаго дайшла яго інтэлігенцкая ліберальнасць.* Радкевіч.

**СТ`АВІЦЬ УС`Ё НА <СВА`Ё> М`ЕСЦА.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Уносіць яснасць, акрэсленасць, канчаткова высвятляць што-н. **Сін**.: ставіць кропкі над «і». **ПАСТАВІЦЬ УСЁ НА <СВАЁ> МЕСЦА.** *Зак. Зрэшты, анархія ў абшчыне Альяша прадаўжалася нядоўга, і неўзабаве наладзіўся зноў парадак. Нечаканым забойствам менш за ўсё вінаватага чалавека Альяш паставіў усё на сваё месца.* Карпюк. — *Супакойцеся, — сказаў ужо зусім шэптам Іван. — Давайце даверымся часу. Ён, час, паставіць усё на месца...* Сачанка. *Прыедзе Радзевіч — і ўсё паставіць на месца...* Блакіт.

**СТ`АВІЦЬ (УСТАЎЛ`ЯЦЬ, С`ОВАЦЬ, С`УНУЦЬ) П`АЛКІ (-У) У К`ОЛА (-Ы)** *каму, чаго. Незак.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знарок перашкаджаць каму-, чаму-н. **Сін**.: даваць падножку *каму*; заступаць дарогу *каму*; падстаўляць ножку *каму*; перабягаць дарогу *каму*; псаваць абедню *каму*; ставіць падножку *каму*; станавіцца на дарозе *чыёй, каму, чаму*; станавіцца папярок дарогі *каму, чыёй*; стаяць на дарозе *чыёй, у каго*; стаяць папярок дарогі *каму, каго*. **Ант**.: саступаць з дарогі (у 2 знач.); сыходзіць з дарогі. *Віктар даволі бесцырымонна запытаўся, чаму ён, прафесар, ставіць яму, Віктару, палкі ў колы.* Савіцкі. *[Зацяруха:] Вы нам, кажа, план зрываеце! Нашы станкі, кажа, за мяжу ідуць, а вы палкі ў колы ўстаўляеце. [Пётр:] Так і сказаў: палкі ў колы ўстаўляеце? [Зацяруха:] Так і сказаў.* Зуб. *Нядобра быць кансерватарам, устаўляць, як кажуць, палку ў колы навуковага прагрэсу.* Шкраба. *—Ты ўпэўнены, што ён [вораг] ёсць? —Павінен быць, Фама Васільевіч. Нехта ж совае нам палкі ў колы.* Шыцік. *Любы горад за такі камбінацік сказаў бы дзякуй. А вашы больш нічога разумнага не прыдумалі, як сунуць палку ў кола.* Шамякін.

**СТ`АВІЦЬ У ТУП`ІК** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Даводзіць да збянтэжанасці, да цяжкага становішча. **Сін**.: заганяць у тупік *каго. —Вось бачыце, — сказаў я, ставячы яе [бабулю] у тупік. —Ажаніцца, выходзіць, цяжэй, чым замуж выйсці.* Ракітны. *Блізкасць такіх розных па сваёй сутнасці людзей ставіла Антона ў тупік.* Крыга. **ПАСТАВІЦЬ У ТУПІК** *каго. Зак. Аднак тое, што Валя пачула ў рэдактарскім кабінеце, канчаткова паставіла яе ў тупік.* Карпаў.

*СТАЕ* ● **КЛЁПКІ НЕ СТАЕ <У ГАЛАВЕ>** *у каго.* Гл. хапае.

*СТАІЦЬ* ● **ДЫМ КАРОМЫСЛАМ <СТАІЦЬ>.** Гл. дым.

**НА ЧЫМ СВЕТ <СТАІЦЬ>.** Гл. свет.

**СВЕТ СТАІЦЬ** *на кім, на чым.* Гл. свет.

**СТАІЦЬ ДЫХАННЕ.** Гл. затаіць.

**ЯК СВЕТ СТАІЦЬ.** Гл. свет.

**ЯК СТА`ІЦЬ (СТА`Ю).** *Акал. Разм.* Без нічога, без рэчаў, маёмасці (ісці, пайсці і пад.). *Няма з чым Іллюку і ў дарогу выбірацца. Як жа ісці так як стаіць на людскі смех?* Каваль. *[Яніна] з радасцю абмінула б поле гэтае, пакінула б за сабою і лясы, і балоты, і гэтыя хаты, і свае невялічкія радасці і гора, і пайшла б вось як стаіць, адна са сваёю тугою, у белы свет.* Мурашка. *І так хочацца, каб усё было спакойна і ціха, што, здаецца, кінула б, рынула ўсё чысценька і як стаю, босая і проставалосая, усю зямлю аббегла б ды агледзела: ці не гарыць дзе, ці не тлее дзе якая іскра...* Палтаран. *Ты ж ведаеш, я прыйшла сюды пасля вайны, голая як стаю.* «Полымя».

*СТАЙНІ* ● **АЎГ`ІЕВЫ СТ`АЙНІ (КАН`ЮШНІ).** *Адз. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* **1**. Вельмі забруджанае месца, запушчанае памяшканне. *Чаго туды лезці... Там рамонт ідзе, аўгіевы канюшні...* «Маладосць».

**2**. Поўнае бязладдзе, надзвычайная запушчанасць спраў (у якой-н. арганізацыі). *На фронце адбываецца рэвалюцыя. На фронце салдаты праводзяць карэнную чыстку [эсэраўскіх] аўгіевых канюшняў.* «Полымя». *Калі чысціць, як таварыш Мяснікоў казаў, «аўгіевы стайні», дык чысціць пад мяцёлку.* Гурскі. *Аўтар прарабіў сапраўды геркулесавую работу па расчыстцы «аўгіевых стайняў» – літаратурных узаемаадносін 20–30 гадоў.* Дубоўка.

*СТАЛА* ● **НЕБУ ГОРАЧА СТАЛА.** Гл. было.

**ШТО Б ТАМ НІ СТАЛА.** Гл было.

*СТАЛІ* ● **ВАЛАСЫ СТАЛІ ДЫБАМ** *у каго.* Гл. валасы.

*СТАЛОМ* ● **ЗА КР`УГЛЫМ СТАЛ`ОМ** <u>*сустракацца, вырашаць*</u> і пад. *Акал. Функц. не зам.* З роўнымі правамі, на роўных умовах. *Я прывык усе спрэчкі вырашаць за круглым сталом, а не дайбнёй.* Шамякін. *Безумоўна, здараліся зрэдку бытавыя непаразуменні, але ўсе канфлікты мы вырашалі, як кажуць дыпламаты, за круглым сталом.* «Полымя».

*СТАЛЫПІНСКІ* ● **СТАЛЫПІНСКІ ГАЛЬШТУК.** Гл. гальштук.

*СТАНАВАЯ* ● **СТАНАВАЯ ЖЫЛА.** Гл. жыла.

*СТАНАВІЦЦА* ● **НА ХВ`ОСТ (НА ХВАСЦ`Е) СТАНАВ`ІЦЦА.** *Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пагрозліва, варожа ставіцца да каго-н. **Сін**.: біць у хамут; даваць у хамут; станавіцца на дыбкі. *Ціток таксама як не закрычаў на Зазыбу: «Ды не трэба таго сходу!..» Астатнія мужыкі зарагаталі — тады навошта было дарэмна на хвост станавіцца!* Чыгрынаў. *З тае ночы я і закаяўся спаць на дзяжурстве. А ты, бач, на хвост становішся. Быццам гэта я каля прахадной бушаваў, а не ты.* Макарэвіч. *Сунімуць, ой,*

*сунімуць!.. З людзьмі не вельмі на хвасце станавіся.* Янкоўскі. *Аднаго разу сам Нупрэй камусьці жаліўся: «Ведаеш, як толькі азавуся, дык яна [жонка] на хвасце становіцца, чортам глядзіць».* Сіпакоў. **НА ХВОСТ (НА ХВАСЦЕ) СТАЦЬ.** *Зак. Ішло аднойчы пасяджэнне, хлапца высватвалі на пост, але за момант да рашэння адзін з прысутных стаў на хвост.* Лужанін.

**СТАНАВ`ІЦЦА ГАР`ОЙ** *за каго, за што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Пачынаць усімі сіламі абараняць каго-, што-н. **Сін**.: станавіцца сцяной. *З аднаго боку, старшыню.. «абстрэльваюць» вымовамі, іншымі спагнаннямі, але варта газеце выступіць з крытычнымі артыкуламі, як за яго райком становіцца гарой.* «Звязда».

**СТАНАВІЦЦА З НОГ НА ГАЛАВУ.** Гл. ставіцца.

**СТАН`ОВІЦЦА К`АЛОМ У Г`ОРЛЕ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн., які абазначае назвы ежы. Не есца. Пра нежаданне ці немагчымасць есці з якой-н. прычыны. **Сін**.: не лезе ў рот. *І есці хочацца і становіцца калом у горле, выварочвае назад ад думкі, што гэта – паскудства...* Гарэцкі. **СТАНЕ КАЛОМ У ГОРЛЕ**. *Праўда, быў хлеб, быў прыпынак, ды не было жыцця. І калом стаў у горле гэты хлеб лесніковства.* Лёсік. *Каб яно калом вам у горле стала, тое мяса!* А.Жук.

**СТАНАВ`ІЦЦА НА Б`ОК** *каго, чый. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Далучацца да каго-н., падтрымліваць каго-н., заступацца за каго-н. *[Лосмель] імкнецца быць суцяшальнікам, становіцца на бок слабейшых.* Карпаў. **СТАЦЬ НА БОК** *каго, чый. Зак. Можа б, я і змоўчыў, калі б і бацька стаў на бок мачыхі, але я чуў яго словы: —Дык куды я яго выганю?* Сабаленка. *У справе ж нашых цяжбаў з вамі за гэтыя ўжыткоўнасці суд стаў на ваш бок.* Колас.

**СТАНАВ`ІЦЦА НА Г`ОРЛА** *каму. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымушаць рабіць так, як хочацца, як выгадна каму-н. **Сін**.: браць за горла *каго*; браць за жабры *каго*; браць за шчэлепы *каго*; наступаць на горла *каму, чаму. Яўхім варухнуўся, перастаў дыміць. —Надаела мне цярпець! Калі на горла становяцца!* Мележ. *Ён табе на горла становіцца...* Юрчанка. **СТАЦЬ НА ГОРЛА** *каму. Зак.*

**СТАНАВ`ІЦЦА НА ДАР`ОЗЕ** *чыёй, каму, чаму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знарок перашкаджаць каму, чаму-н. (звычайна ў дасягненні якой-н. мэты). **Сін**.: даваць падножку *каму*; заступаць дарогу *каму*; падстаўляць ножку *каму*; перабягаць дарогу *каму*; псаваць абедню *каму*; ставіць падножку

*каму*; ставіць палкі ў кола *каму, чаго*; станавіцца папярок дарогі *каму, чыёй*; стаяць на дарозе *чыёй, у каго*; стаяць папярок дарогі *каму, каго.* **Ант**.: саступаць з дарогі (у 2 знач.); сыходзіць з дарогі. *Пазней ні мы не даруем сабе гэтага, ні нам не даруюць... Не нам на іх дарозе станавіцца.* Карпаў. *Макаед не столькі ўнікаў у сюжэт і дэталі венгерскай сямейнай камедыі, колькі ўсё яшчэ думаў пра Карнача, якому неаднойчы кляўся ў дружбе, але ў душы лічыў непрыяцелем, які так часта станавіўся яму на дарозе.* Шамякін. **СТАЦЬ НА ДАРОЗЕ** *чыёй, каму, чаму. Зак. [Гудовіч:] Ты, неразумная, хочаш стаць мне на дарозе ў самы адказны момант майго жыцця?* Крапіва. *Усё жыццё будзе грызці сумленне і шчымець душа, што не здолеў перашкодзіць, стаць на дарозе такому нечуванаму злу і міжвольна нанёс цяжкую душэўную траўму вельмі блізкаму чалавеку.* Кулакоўскі.

**СТАНАВ`ІЦЦА НА З`АДНІЯ Л`АПКІ** *перад кім. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачынаць падлашчвацца, прыслужвацца, падлізвацца. **Сін**.: віляць хвастом (у 2 знач.); гнуцца ў тры пагібелі *перад кім*; гнуць спіну *перад кім*; ламаць шапку *перад кім*; лізаць боты *каму*; падаць лістам *перад кім*; падпускаць лёстачкі *каму*; поўзаць на каленях *перад кім*; рассыпацца драбней маку *перад кім*; рассыпацца <дробным> макам *перад кім*; слацца лістам *перад кім*; хадзіць на задніх лапках *перад кім*; хадзіць на пальчыках *перад кім. Вунь Аўтобус палову курса прагнаў са свайго заліку. Толькі і паказвае перад студэнтамі сваю прынцыповасць... А ўбачыць дэкана — адразу на заднія лапкі становіцца.* Радкевіч. **СТАЦЬ) НА ЗАДНІЯ ЛАПКІ** *перад кім. Зак.*

**СТАНАВ`ІЦЦА НА КАЛ`ЕНІ** *перад кім. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Скарацца, падпарадкоўвацца каму-н., прызнаўшы сябе пераможаным. **Сін**.: <і> лапкі ўгору; складваць зброю (у 1 знач.); схіляць галаву (у 1 знач.). *[Страмілін:] Можа, адмовімся ад свае пастановы? Ці станем на калені ды будзем умаляць таварыша Сухадольскага? [Падабед:] Я думаю, не будзем станавіцца на калені.* Крапіва. **СТАЦЬ НА КАЛЕНІ** *перад кім. Зак. Беларускі народ, таксама як і ўсе іншыя свабодалюбівыя народы, не стаў і не стане на калені перад акупантамі.* Чорны.

**СТАНАВ`ІЦЦА НА Н`ОГІ.** *Незак. Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Папраўляцца пасля хваробы, ачуньваць, выздараўліваць. **Сін**.: падымацца на ногі (у 1 знач.); уставаць на ногі (у 1 знач.). *Так са Швецавай падмогай станавіўся дзед на ногі, толькі смутак агартаў, што зусім яшчэ не ўстаў.* Астрэйка. **СТАЦЬ НА НОГІ.** *Зак. Не хавае Малашкін і таго,*

*што па прыездзе з Беларусі доўга хварэў. Але... паправіўся. Стаў на ногі, пайшоў да працы.* Пестрак. *Ды пароды дужае быў армейскі конь, не сканаў асуджаны куляю на скон. Стаць на ногі хвораму бацька дапамог.* Куляшоў.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачынаць весці самастойнае жыццё, рабіцца самастойным, мужнець. **Сін**.: падымацца на ногі (у 2 знач.). **СТАЦЬ НА НОГІ.** *Зак. Прыходзіць на гэтых гаспадароў канец яшчэ раней, чым ты станеш на ногі, і я добра ведаю, што і ты, і Іліко будзеце вольнымі людзьмі, як таго і варты чалавек.* Самуйлёнак. *Хай вырасце, адслужыць армію, стане на ногі, а тады і жэніцца...* Кудравец. *Канечне, з інстытута ніхто не прыходзіць гатовым спецыялістам, трэба год-другі з ім паняньчыцца, дапамагчы чалавеку цвёрда стаць на ногі...* «Полымя».

**3**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Папраўляць, паляпшаць матэрыяльнае становішча. **Сін**.: набіраць сілу (у 2 знач.); падымацца на ногі (у 3 знач.); убірацца ў пер'е (у 2 знач.); убірацца ў сілу (у 4 знач.); уставаць на ногі (у 2 знач.). *[Паланевіч:] Ёсць у нас іншыя калгасы, якім станавіцца на ногі было куды цяжэй, бо яны пачалі аднаўляць гаспадарку на папялішчы.* Крапіва. **СТАЦЬ НА НОГІ.** *Зак. —Некалі станем на ногі, няпраўда, лепш стане жыць, — паддаў сабе бадзёрасці Ігнась.* Мурашка. *Абадраны я, ні абутку, ні адзетку. Памажы мне як на ногі стаць.* Лобан. *Раней усе больш спагадлівыя былі. Папрасілі: «Хадзі падсабі». Памогуць! Адзін аднаму дапамагалі. Таму выжылі, сталі на ногі.* Пашкоў.

**СТАНАВ`ІЦЦА НА <СВА`Ё> М`ЕСЦА (-Ы).** *Незак. Функц. не зам.* Часцей ужыв. пры дзейн.-займ. *усё.* Прымаць звычайны ход, накірунак, прывычны парадак. **Сін**.: уваходзіць у <свае> берагі; уваходзіць у <сваё> рэчышча; уваходзіць у <сваю> каляю (у 2 знач.). *Спакваля ўсё станавілася на свае месцы, і ён [Сцёпка] ужо зусім пэўна пачаў разумець, чаму не пабег разам з ім Міця: хлопец кінуўся ратаваць Росліка.* Быкаў. **СТАЦЬ НА <СВАЁ> МЕСЦА (-Ы).** *Зак. Клімёнак ведаў па сабе, што патрэбен час, каб усё стала на сваё месца, набыло ранейшыя фарбы, каб гэты перакос у яго псіхіцы знік, хоць і не без следу.* Дамашэвіч. *—Ціха, цёця, ціха! — спыніў яе сяржант. —Вось пагутарым, і ўсё стане на месца.* Корбан.

**СТАНАВ`ІЦЦА НА СЛ`ІЗКУЮ ДАР`ОЖКУ.** *Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачынаць дзейнічаць ненадзейным, небяспечным спосабам. **СТАЦЬ НА СЛІЗКУЮ ДАРОЖКУ.** *Зак. А яшчэ скажу, што стаў ты, Сяргей, на слізкую*

*дарожку. Ліхацтва да дабра не давядзе!* Васілёнак.

**СТАНАВ`ІЦЦА НА ШЛ`ЯХ** *чаго, які. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Пачынаць дзейнічаць або развівацца ў якім-н. напрамку. *«Белыя» доўгі час прытрымліваліся лініі на пагадненне з царызмам, паступова становячыся на шлях легальнай апазіцыі.* «Звязда». **СТАЦЬ НА ШЛЯХ** *чаго, які. Зак. Гэта аповесць гаворыць, што Мікуліч стаў на другі шлях, і тут ён сапраўды выявіў свой талент.* Чорны. *Яшчэ раней глыбоцкі аптэкар Аўгустоўскі раіў мне падрыхтавацца і здаць экзамен на аптэкарскую вучаніцу. Гэта быў адзіны спосаб найхутчэй стаць на шлях самастойнага жыцця.* Мядзёлка.

**СТАНАВ`ІЦЦА ПАПЯР`ОК (П`ОПЕРАК, УП`ОПЕРАК) Г`ОРЛА** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Рабіцца невыносным, нясцерпным для каго-н., моцна перашкаджаць каму-н. **Сін**.: драць горла (у 2 знач.). *Трэба, каб яно, гэта дабро наша фашыстам бокам выходзіла! Каб яно фашыстам поперак горла станавілася!* Лынькоў. **СТАЦЬ ПАПЯРОК (ПОПЕРАК, УПОПЕРАК) ДАРОГІ** *каму, чыёй. Зак. [Мігуцкі:] Небяспечны гэты хлеб. [Гудовіч:] Хіба ён каму-небудзь поперак горла стаў?* Крапіва. *Не сунімаюцца лясныя недабіткі. Нарыхтоўкі ім упоперак горла сталі.* Шыцік.

**СТАНАВ`ІЦЦА ПАПЯР`ОК (П`ОПЕРАК, УП`ОПЕРАК) ДАР`ОГІ** *каму, чыёй. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знарок перашкаджаць каму-н. (звычайна ў дасягненні якой-н. мэты). **Сін**.: даваць падножку *каму*; заступаць дарогу *каму*; падстаўляць ножку *каму*; перабягаць дарогу *каму*; псаваць абедню *каму*; ставіць падножку *каму*; ставіць палкі ў кола *каму, чаго*; станавіцца на дарозе *чыёй, каму, чаму*; стаяць на дарозе *чыёй, у каго*; стаяць папярок дарогі *каму, каго.* **Ант**.: саступаць з дарогі (у 2 знач.); сыходзіць з дарогі. *Бацькі дзяўчыны чыняць перашкоды ў каханні, яны ніяк не могуць пазбыцца старых забабонаў і самі становяцца ўпоперак дарогі сваёй дачцэ.* Шкраба. **СТАЦЬ ПАПЯРОК (ПОПЕРАК, УПОПЕРАК) ДАРОГІ** *каму, чыёй. Зак. [Кася:] Стануць бацькі папярок дарогі, — свет шырокі, пакіну і ўцяку.* Галубок. *[Рымша:] Няўжо Бондар стаў упоперак іх дарогі?* Гурскі. *[Гарлахвацкі:] Не адважыцца [Чарнавус] стаць мне поперак дарогі? Думаю, што не адважыцца.* Крапіва.

**СТАНАВ`ІЦЦА СЦЯН`ОЙ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Дружна, аднадушна выступаць (у абарону чаго-н., супраць чаго-н. і пад.). **Сін**.: станавіцца гарой *за каго, за што. Рабочыя і сяляне на заклік КПЗБ становяцца сцяной ў*

*абарону ТБШ [Таварыства беларускай школы] і заваяваных доўгімі гадамі барацьбы лічаных беларускіх школ.* Таўлай. **СТАЦЬ СЦЯНОЙ.** *Зак. Наведвальніка аблічылі на 30 капеек, а як дайшла справа да прынцыповага рэагавання — кіраўніцтва сцяной стала за парушальніцу: яна і перадавік, і майстар самай высокай кваліфікацыі, і... лепшы народны кантралёр.* «Звязда».

**СТАНАВ`ІЦЦА Ў П`ОЗУ** *чыю, якую, каго. Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымаць які-н. выгляд, каб стварыць пэўнае ўражанне. *Нядобрая воля прымушала радзімых патрыётаў станавіцца ў ваяўнічую позу супроць самаўладнай клікі.* Гартны. *А потым, калі ад падобных «шэдэўраў» праз год-два не астанецца і следу, іх аўтары становяцца ў позу непрызнаных геніяў, якіх не зразумелі сучаснікі.* Вітка. **СТАЦЬ У ПОЗУ** *чыю, якую, каго. Зак. Наіўныя пераймальнікі Маякоўскага думаюць, што даволі стаць у яго позу, каб іх паэзія таксама загрымела на ўвесь свет.* Крапіва.

**СТАНАВ`ІЦЦА (УСТАВ`АЦЬ) НА ДЫБК`І.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рэзка пярэчыць, пратэставаць, выяўляць нязгоду. **Сін**.: біць у хамут; даваць у хамут; на хвост станавіцца. *Даша стварала праблемы там, дзе ніводная жонка, не толькі такая, як Поля Шугачова, але самая звычайная, маладзейшая, дурнейшая, з любымі іншымі «мухамі», не станавілася б на дыбкі.* Шамякін. *[Пальчык] чакаў крыку, лаянкі, адным словам, наганяю, а заўсёды, калі на яго крычалі, ён таксама пачынаў станавіцца на дыбкі, калі нават і быў вінаваты.* Дамашэвіч. **СТАЦЬ (УСТАЦЬ) НА ДЫБКІ.** *Зак. Каб мо Сяргей перапрасіў, дык усё і абышлося б, але той стаў на дыбкі і пачаў адмаўляць сваю віну.* Сабаленка. *Астатак дня хадзіў [Антось] нейкі прыбіты, адчужаны, усю ноч крахтаў, варочаўся — не мог ніяк заснуць, а назаўтра нечакана для ўсіх устаў на дыбкі: —Нікуды не паеду, хаты прадаваць не буду.* Блакіт. *Калі Філімонаву сказалі, што ён застаецца ў рэдакцыі літаратурным супрацоўнікам, той устаў на дыбкі: маўляў, я не журналіст, ніколі не пісаў, я — настаўнік.* «Полымя».

**СТАНАВ`ІЦЦА Ў СТР`ОЙ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіцца дзейным, працаздольным, баяздольным. **Сін**.: вяртацца ў строй. **Ант**.: выбываць са строю (у 1 знач.). *Ну што ж, давай, станавіся, як кажуць, у строй...* Дайліда. **СТАЦЬ У СТРОЙ.** *Зак. Я адстаў, але трымаю зброю, а баец каму яе аддасць? Знойдзе сілы і любой цаною стане ў строй...* Непачаловіч.

**СТАНАВ`ІЦЦА Ў ТУП`ІК.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Трапляць у цяжкае становішча, бянтэжыцца. *Я знаходжуся на амерыканскай зямлі. Тут шмат супярэчлівага, незразумелага, да недарэчнасці дзіўнага парой. Часта становішся ў тупік.* Вярцінскі. *Які гэта выказнік — просты ці састаўны? Вучні становяцца ў тупік.* «Нар. асвета». **СТАЦЬ У ТУПІК.** *Зак.*

*СТАНАВІЦЬ* ● **СТАНАВІЦЬ НА НОГІ.** Гл. ставіць.

*СТАНАВЫ* ● **СТАНАВЫ ХРЫБЕТ** *чаго, чый.* Гл. жыла.

*СТАНЕ* ● **НЕ СТ`АНЕ** *за кім. У безас. ужыв. Разм.* Кім-н. будзе вернута, кампенсавана, адплачана. Пра тое, што было ўзята, патрачана і пад. **Сін**.: не заржавее *за кім*; не прападзе *за кім. А за тое, што брала, разлічуся, за мной не стане.* Рыбак.

**СПРАВА НЕ СТАНЕ** *за кім, за чым.* Гл. справа.

**СТАНЕ КАЛОМ У ГОРЛЕ.** *Зак. да* **СТАНОВІЦЦА КАЛОМ У ГОРЛЕ.**

**У ПАДВ`ЕШАНЫМ СТ`АНЕ.** *Вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. З самаадчуваннем, настроем няпэўнасці, нявырашанасці чаго-н. (быць, знаходзіцца і пад.). *Без чытача пісьменніку глуха і пуста. Ён тады ў падвешаным стане. Тады паўстаюць пакутлівыя пытанні: навошта і для каго пісаць?* Карамазаў. *Адзін верш забараняецца канчаткова, і ў падвешаным стане застаўся Адам Глобус. Ну, з гэтым я яшчэ нешта буду рабіць. Абавязкова!* Дубянецкі.

*СТАНОВІШЧЫ* ● **У ЦІК`АВЫМ СТАН`ОВІШЧЫ.** *Часцей вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У стане цяжарнасці. *—Жонка ў мяне ў цікавым становішчы, — апраўдваўся Сяргей. —Яна ў Смаленску. Трэба і пра яе клапаціцца.* Гурскі. *Вунь колькі яна [Жэня] чытала ў кніжках, што жанчыны ў такім цікавым становішчы адчуваюць, як нешта стукае ці варочаецца ў іх пад сэрцам.* Б.Стральцоў.

*СТАНОВЯЦЦА* ● **ВАЛАСЫ СТАНОВЯЦЦА ДЫБАМ** *у каго.* Гл. валасы.

*СТАРАНА* ● **СПРАВА СТАРАНА.** Гл. справа.

*СТАРАНЕ* ● **НА СТАРАН`Е.** *Акал. Разм.* Не дома, не ў сябе, у чужым месцы (працаваць, шукаць, мець і пад.). *Знікаеш часта, недзе ходзіш і тоіш нешта ад мяне. Скажы, з кім ты знаёмства водзіш? Ці краля ёсць на старане?* Колас. *Думаў [Юзік] спачатку на старане дзе-небудзь шукаць [грошы], у чужых людзей, у суседзяў, ды не было ў каго вельмі прасіць.* Крапіва. *Калі ўжо інакшага ратунку няма, як шукаць сабе кавалка хлеба на старане, дык Іллюк і не прападзе.* Калюга.

**У СТАРАН`Е.** *Акал. Функц. не зам.* **1**. На некаторай адлегласці,

воддаль. *Чую: у старане недзе бурчыць, пераліваецца, бяжыць, нібы, скажам, ручаёчак жывенькай вадзіцы.* Ядвігін Ш. *Нікому не хочацца мяняць лагер, дужа ўжо зручнае месца: ціхае, у старане ад дарог.* Быкаў.

**2**. Асобна ад іншых, не разам з усімі (быць, знаходзіцца і пад.). *Было шкада сябе. Нават не сябе, а гэтых змарнаваных семнаццаці год, пражытых у панскіх турмах. Колькі то адбылося за гэты час, а ён сядзеў недзе ў старане, не маючы нават магчымасці падаць свой голас.* Лынькоў.

*СТАРАНУ* ● **НА СТАРАН`У.** *Акал. Разм.* Куды-н. у іншае, аддаленае месца (ісці, ехаць і пад.). *Народ выпускае сваю зямлю ў арэнду, а сам ідзе куды на старану шукаць работу. А работы гэтай нідзе не чуваць нават.* Чорны. *Ад нас калі ішоў чалавек на старану, то выбіваўся ў людзі.* Лупсякоў.

*СТАРАНЫ* ● **НА ЎСЕ ЧАТЫРЫ <СТАРАНЫ>.** Гл. бакі.

*СТАРАСЦІ* ● **НА СТ`АРАСЦІ Г`ОД.** *Акал. Разм.* У пажылым узросце. **Сін**.: на схіле дзён. *Слухай, Мікіта! Баюся я за цябе. Мала што можа здарыцца. Не хачу я на старасці год ісці з торбамі па свеце.* Гурскі. *Пакінуў [муж] мне крыху грошай. Рашыла на старасці год займець свой дамок.* Мяжэвіч. *Век пражыў — не судзіўся ні з кім, а тут на старасці год давялося.* Капусцін.

*СТАРАЯ* ● **СТАРАЯ ПЕСНЯ.** Гл. песня.

*СТАРОЙ* ● **ПА СТАРОЙ ПАМЯЦІ.** Гл. памяці.

**ЯК СТАРОЙ БАБЕ СЕСЦІ.** Гл. сесці.

*СТАРОНКІ* ● **З Ч`ЫСТАЙ СТАР`ОНКІ (ЛІСТ`А)** пачынаць, пачынацца. *Акал. Функц. не зам.* Нанава, спачатку, забываючы на ўсё папярэдняе. *[Аляксей:] Ка-а-ця... Каб ты ведала... Эх-ха. Ну — давай з чыстай старонкі пачынаць... Ну — даруем адно аднаму, калі што было... Як хочаш ведаць, я спецыяльна прыехаў!* Місько. *І пачыналася яна [літаратура], як кажуць, не з чыстага ліста...* «ЛіМ».

*СТАРОНКУ* ● **АДКРЫВАЦЬ НОВУЮ СТАРОНКУ** *ў чым.* Гл. адкрываць.

**УПІСАЦЬ НОВУЮ СТАРОНКУ** *ў што.* Гл. упісаць.

*СТАРШЫ* ● **СТ`АРШЫ (-АЯ, -ЫЯ) КУД`Ы ПАШЛ`ЮЦЬ.** *Часцей дап. Разм. Іран.* Падсобны працаўнік, рознарабочы. **Сін**.: хто куды пашле. *На будоўлі, аж пакрыўдзілі напачатку, прызначылі [Уладзіміра] старшым куды пашлюць.* Мыслівец. *Алена ж працуе «старшай куды пашлюць». Паслалі акучваць агарод — акучвае агарод, паслалі палоць лён — поле лён, загадалі вязаць снапы — вяжа снапы.* Лупсякоў. *Сярожа Клімашэўскі, каранасты, з румянцам на ўсю шчаку, рабіў у лясгасе «старшым куды пашлюць».*

Праскураў. *—Не шафёр я ўжо. —Чаму? Хто ж? —Міністр без партфеля. Старшы куды пашлюць. Сёння зерне лапачу, заўтра, глядзіш, турнуць дзюлькам хвасты закручваць.* Калодзежны.

*Чый* **ЧОРТ СТАРШЫ.** Гл. чорт.

*СТАРЫ* ● **І СТАР`Ы І МАЛ`Ы (МАЛАД`Ы).** *Дзейн. і дап. Разм.* Усе незалежна ад узросту. *З усіх як ёсць двароў на вуліцу высыпалі і стары і малы.* Гіль. *Да паляны вёскі Задвор'е — традыцыйнага месца гулянняў жыхароў Стоўбцаў — спяшаліся і стары і малы.* «Чырв. змена». *—Смерці ў вочы кожнаму — і старому і маладому — страшна глядзець, — сказаў я.* Сабаленка.

**СТАРЫ ВЕРАБЕЙ.** Гл. верабей.

**СТАРЫ ВОЎК.** Гл. воўк.

*СТАРЫЯ* ● **УЛІВАЦЬ У СТАРЫЯ МЯХІ НОВАЕ ВІНО.** Гл. уліваць.

*СТАРЭЙШЫ* ● **СТАРЭЙШЫ БРАТ.** Гл. брат.

*Чый* **ЧОРТ СТАРЭЙШЫ.** Гл. чорт.

*СТАРЭЦКАЯ* ● **ЯК СТАРЭЦКАЯ ПУГА.** Гл. пуга.

*СТАРЭЧАЯ* ● **ЯК СТАРЭЧАЯ ПУГА.** Гл. пуга.

*СТАТАК* ● **ПАН`УРГАЎ СТ`АТАК.** *Мн. не ўжыв. Чысцей вык. Разм. Неадабр.* Натоўп, які слепа ідзе за сваім важаком, бяссэнсава пераймаючы яго. **Сін.**: статак бараноў. *Красоўскі ў двух раманах – «Панургаў статак» і «Дзве сілы» – у карыкатурным, зняважлівым выглядзе падаў рэвалюцыйна-вызваленчы рух у Расіі шасцідзесятых гадоў і паклёпнічаў на Чарнышэўскага.* Лынькоў.

**СТ`АТАК БАРАН`ОЎ.** *Мн. не ўжыв. Чысцей вык. Праст. Неадабр.* Натоўп, які, бяссэнсава пераймаючы свайго важака, слепа ідзе за ім. **Сін.**: панургаў статак. *Францішак, кінь шляхту, кінь гэтых недалугаў-эгаістаў! Яны трымаюцца толькі дзякуючы табе! Ты іх трымаеш, ты імі кіруеш, гэты статак бараноў не здолее ісці сам…* Чаропка.

*СТАТУТАМ* ● **ЛЕЗЦІ СА СВАІМ СТАТУТАМ У ЧУЖЫ МАНАСТЫР.** Гл. лезці.

*СТАЎКА* ● **В`ОЧНАЯ СТ`АЎКА.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Адначасовы перакрыжаваны допыт абвінавачанага і сведак. *Першая вочная стаўка не прынесла следству ніякіх вынікаў.* Новікаў. *Колькі паліцыянты мяне ні таўклі, я не прызнаваўся. Тады зрабілі вочную стаўку.* Карпюк. *[Нагель:] Усе яны адмаўляюць, што ведаюць што-небудзь пра падпольную работу. На вочных стаўках адзін аднаго не прызнаюць.* Крапіва.

**СТ`АЎКА Б`ІТА** *чыя, каго. Мн. не ўжыв. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. пацярпеў поўную няўдачу ў чым-н. **Сін.**: карта біта *чыя, каго*; козыр выбіты з рук *каго, чыіх*; козыр біты *чый, каго.*

*«Джэнтльмены», богі Уол-стрыта! Задужа смелы ваш замах: люд не пацерпіць шлях бандыта, і ваша стаўка будзе біта, ваш бог рассыплецца: ён — прах.* Колас. *Усякіх налізаліся вы ручак, а няма ў вас і страхі ад дома. Так, няма; паверце, што й не будзе, бо на Слуцак ваша стаўка біта. Там жывуць зусім другія людзі, усё былое знікла і забыта.* Дудар. *[Кунц:] Калі ён сапраўды не Лескавец, мая стаўка біта.* Губарэвіч.

*СТАЦЬ* ● **НА ХВОСТ СТАЦЬ.** *Зак. да* **НА ХВОСТ СТАНАВІЦЦА.**

**НІ СТ`АЦЬ НІ С`ЕСЦІ.** *Часцей у безас. ужыв. Разм.* Так цесна, што не павернешся. **Сін**.: носа не ўбіць <*куды*>; носа няма дзе ўбіць; пальца не ўваб'еш; яблыку няма дзе ўпасці (у 2 знач.). *Адно акенечка і тое глядзела цьмяна.. А цесната — ні стаць ні сесці...* Колас. У *вагончыку — ні стаць ні сесці.* «Маладосць».

**СТАЦЬ ГАРОЙ** *за каго, за што. Зак. да* **СТАЯЦЬ ГАРОЙ** *за каго, за што.*

**СТАЦЬ ГРУДЗЬМІ** *за каго, за што. Зак. да* **СТАЯЦЬ ГРУДЗЬМІ** *за каго, за што.*

**СТАЦЬ КОСТКАЙ У ГОРЛЕ** *каму, у каго. Зак. да* **СТАЯЦЬ КОСТКАЙ У ГОРЛЕ** *каму, у каго.*

**СТАЦЬ НА БОК** *каго, чый. Зак. да* **СТАНАВІЦЦА НА БОК** *каго, чый.*

**СТ`АЦЬ НА В`УШЫ**. *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Выявіць актыўную, энергічную дзейнасць. *Варта было новапрызначанаму старшыні грэбліва адштурхнуць, як штосьці агіднае, напісаны па-беларуску дакумент, як тут жа ва ўсіх выдавецтвах.. рэдактары і галоўныя рэдактары сталі на вушы і аддалі вусныя распараджэнні ўсё справаводства перавесці на рускую мову.* Лецка. *Цікава, колькі за яе [карэспандэнтку] дадуць зялёных, калі захапіць у заложнікі? А ўжо які віск падымецца!.. Усе стануць на вушы. Не, не даедзе ён да свяшчэннай Меккі.* Кажадуб.

**СТАЦЬ НА ГОРЛА** *каму. Зак. да* **СТАНАВІЦЦА НА ГОРЛА** *каму.*

**СТАЦЬ НА ДАРОЗЕ** *чыёй, каму, чаму. Зак. да* **СТАНАВІЦЦА НА ДАРОЗЕ** *чыёй, каму, чаму.*

**СТАЦЬ НА ДЫБКІ.** *Зак. да* **СТАНАВІЦЦА НА ДЫБКІ.**

**СТАЦЬ НА ЗАДНІЯ ЛАПКІ** *перад кім. Зак. да* **СТАНАВІЦЦА НА ЗАДНІЯ ЛАПКІ** *перад кім.*

**СТАЦЬ НА КАЛЕНІ** *перад кім. Зак. да* **СТАНАВІЦЦА НА КАЛЕНІ** *перад кім.*

**СТ`АЦЬ НА КРЫЛ`О**. *Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаць весці самастойнае жыццё, зрабіцца

самастойным. **Сін.**: стаць на ногі (у 2 знач.). *Цяпер, калі ён вырас, калі ён, як кажуць, аперыўся і стаў на крыло, бацька яму не надта і патрэбны.* Гіль. *Многім выкладчыкам слынны вучоны дапамог стаць на крыло.* «ЛіМ». *Стаўшы на крыло, выкладчыцкая моладзь не шукала лягчэйшага, чым навука і навучанне, хлеба, асядала на родным факультэце...* «Роднае сл.» *Дзеці выраслі, сталі на крыло, вылецелі з роднага гнязда, жывуць асобна.* Левановіч.

**СТАЦЬ НА НОГІ.** *Зак. да* **СТАНАВІЦЦА НА НОГІ.**

**СТАЦЬ НА <СВАЁ> МЕСЦА.** *Зак. да* **СТАНАВІЦЦА НА <СВАЁ> МЕСЦА.**

**СТАЦЬ НА СЛІЗКУЮ ДАРОЖКУ.** *Зак. да* **СТАНАВІЦЦА НА СЛІЗКУЮ ДАРОЖКУ.**

**СТАЦЬ НА ЧАЛЕ** *чаго. Зак. да* **СТАЯЦЬ НА ЧАЛЕ** *чаго.*

**СТАЦЬ НА ШЛЯХ** *чаго, які. Зак. да* **СТАНАВІЦЦА НА ШЛЯХ** *чаго, які.*

**СТАЦЬ ПАПЯРОК ГОРЛА** *каму. Зак. да* **СТАНАВІЦЦА ПАПЯРОК ГОРЛА** *каму.*

**СТАЦЬ ПАПЯРОК ДАРОГІ** *каму, чыёй. Зак. да* **СТАНАВІЦЦА ПАПЯРОК ДАРОГІ** *каму, чыёй.*

**СТАЦЬ СЦЯНОЙ.** *Зак. да* **СТАНАВІЦЦА СЦЯНОЙ.**

**СТАЦЬ У ПОЗУ** *чыю, якую, каго. Зак. да* **СТАНАВІЦЦА Ў ПОЗУ** *чыю, якую, каго.*

**СТАЦЬ У СТРОЙ.** *Зак. да* **СТАНАВІЦЦА Ў СТРОЙ.**

**СТАЦЬ У ТУПІК.** *Зак. да* **СТАНАВІЦЦА Ў ТУПІК.**

*СТАЧЫЦЬ* ● **СТАЧЫЦЬ КАНЦЫ З КАНЦАМІ.** *Зак. да* **СТОЧВАЦЬ КАНЦЫ З КАНЦАМІ.**

*СТАЯЎ* ● **І БЛ`ІЗКА НЕ СТА`ЯЎ (-ЛА, -ЛІ)** *каля каго, каля чаго. Незак. Разм. Пагард.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш. ці канкр. прадмета. Не можа нават параўноўвацца (якасцямі, розумам і пад.) з кім-, чым-н. **Сін.**: і не начаваў (у 2 знач.). *І ўсе важнецкія паны, і так адзеты, так убраны, што той Ракоўскі надзіманы — няхай яго там возьме боль — у параўнанні з імі — ноль — ну, проста так, звычайны Лыска: і не стаяў каля іх блізка!* Колас. *—Ну, як яна [новая малатарня]? —Куды, твая і блізка не стаяла каля яе, — хваліць Пошта.* Крапіва. *—І Насця была нічога баба, каб не з’елі яе Іванавы дочкі... —Ой, знайшла параўнанне! Толькі што «нічога».. Насця і блізка каля Волькі не стаяла.* Васілевіч.

*СТАЯЦЬ* ● **АДН`ОЙ НАГ`ОЙ СТА`ЯЦЬ** *у чым, на чым. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адчуваць сваю блізкасць да чаго-н., непарыўнасць з чым-н. *Звольнены з арміі начыстую, Малевіч*

*адразу ж кінуўся на пошукі. Не далячыўся, выпрасіўся раней часу ў шпіталі і ўжо адной нагой стаяў у сваім гарадку.* Лужанін. *Брыгадзіры і Броня, як чалавек, што сам адной нагою стаяў нядаўна на гэтай сялянскай гаспадарцы, гаварылі на сходзе.* Чорны. *Віцьку пятнаццаць гадоў. Адной нагой ён яшчэ моцна стаіць у сваім дзяцінстве.* Цяжкі.

**АДН`ОЙ НАГ`ОЙ СТА`ЯЦЬ У МАГ`ІЛЕ (У ТРУН`Е).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дажываць сваё жыццё, быць блізкім да смерці. Звычайна пра хворага ці старога чалавека. **Сін**.: глядзець на той свет; глядзець у магілу; дыхаць на ладан (у 1 знач.); з кірмашу ехаць; зямлёй пахнуць; ледзь дыхаць (у 1 знач.). **Ант**.: стаяць напроці свайго веку. *Пасля свайго ранення яна [Зоська] ледзьве ліпела на свеце, адной нагой стаяла ў магіле...* Быкаў. *І на фронце з табою мы разам былі, і адною нагою стаялі ў магіле.* Панчанка. *[Агата:] Што бачу харошага? Дзень пры дні калатня... Нясу цяжкі крыж, стаю адной нагою ў магіле.* Махнач. *І хоць было няёмка лезці са справамі да чалавека, які адной нагой стаяў у труне, увечары Васько зайшоў да яго.* Асіпенка.

**Л`ЕДЗЬ (Л`ЕДЗЬВЕ) СТА`ЯЦЬ (ТРЫМ`АЦЦА) НА НАГ`АХ.** *Незак. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. З цяжкасцю хадзіць, рухацца (ад стомленасці, слабасці, хваробы і пад.). **Сін**.: валіцца з ног <*ад чаго*>; выбівацца з сіл (у 1 знач.); высалапіць язык; заставацца без ног; збівацца з ног; зямлі не чуць пад сабой (у 2 знач.); ледзь ногі цягаць (у 1 знач.); ледзь шоры цягаць; на нагах не трымацца; не чуць ног; не чуць ні рук ні ног. *Прызнацца, я ледзьве стаяў на нагах, такі быў змораны.* Чорны. *—Які ён з сябе? — У шэрым паліто, у капелюшы. Вельмі ж п’яны, ледзь на нагах стаяў.* Сабаленка. *Кандрат быў увесь у сіняках і ледзь трымаўся на нагах.* Лобан.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць вельмі слабым, знясіленым. **Сін**.: ледзь ногі цягаць (у 2 знач.). *Сёння я бачыў іх на беразе. Вунь яны, караблі разгружаюць. Няшчасныя! Ледзь трымаюцца на нагах.* Шамякін. *Паратоўца, вядома, сам ледзьве стаяў на нагах, але дагэтуль лейтэнант не мог ні ў чым папракнуць яго — там, у вёсцы, і ў полі Півавараў паводзіў сябе самым пахвальным чынам.* Быкаў.

**3**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. Даходзіць да непрыгоднасці, занепадаць. **Сін**.: дыхаць на ладан (у 2 знач.); ледзь дыхаць (у 2 знач.). *Гаспадарка была даведзена яго [Даленкі] шматлікімі папярэднікамі да таго, што ледзь трымалася на нагах.* Дуброўскі. *Я не супраць таго, каб аб’яднаць, але ж*

*спачатку няхай умацуецца тая арцель ды і наша смалакурня, а то абедзве ледзь на нагах стаяць.* Чарнышэвіч.

**СТА`ЯЦЬ ГАР`ОЙ** *за каго, за што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Усімі сродкамі абараняць, адстойваць каго-, што-н. **Сін**.: стаяць грудзьмі *за каго, за што*; стаяць сцяной. *Мы скромна зашыліся ў нашы каюты, і тут надышоў мемуарны настрой — пра ўсё ўспаміналі, спрачаліся люта, за нейкую справу стаялі гарой.* Панчанка. *Так бы ў цяжкую гадзіну за праўду стаяць гарой, як стаяў за Радзіму артылерыст-герой.* Вярцінскі. **СТАЦЬ ГАРОЙ** *за каго, за што. [Ракітны:] У калектыве ён карыстаецца вялікім аўтарытэтам. І калі што, мы за яго гарой станем, не дапусцім, каб ганьбілі яго добрае імя.* Крапіва.

**СТА`ЯЦЬ ГРУДЗЬМ`І** *за каго, за што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Мужна абараняць каго-, што-н. **Сін**.: стаяць гарой *за каго, за што*; стаяць сцяной. **СТАЦЬ ГРУДЗЬМІ** *за каго, за што. Зак. —Мы, кажуць, заўсягды за чалавека грудзьмі станем, — кажа далей Генадзь. — Паверый я.* Васілёнак. *Англійскія, амерыканскія, французскія і італьянскія войскі распаўзліся па Мурману ў «гуманных» мэтах — стаць грудзьмі за Мурман, каб яго не захапілі немцы.* Корбан.

**СТА`ЯЦЬ ЗА СП`ІНАЙ (ЗА ПЛЯЧ`АМІ, -`ЫМА)** *чыёй, каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, сукупнасці асоб ці абстр. прадмета. Тайна падтрымліваць каго-н., скрытна накіроўваць чыю-н. дзейнасць. *[Левановіч:] Добра, калі ён адзін, а могуць за яго спінаю стаяць яшчэ больш клыкастыя.* Крапіва. *Навучаны вопытам, Понтус стараўся падтрымліваць у сябе веру і ўмеў паказаць, што за яго плячыма стаіць нехта высокі і адказны.* Карпаў. *Фрын Даўэр, за плячыма якога стаялі мільённыя арміі Германіі, быў бяссільны.* Шахавец.

**СТА`ЯЦЬ К`ОСТКАЙ У Г`ОРЛЕ** *каму, у каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. адуш. ці неадуш. прадмета. Вельмі перашкаджаць, выклікаючы ў каго-н. неспакой, хваляванне, раздражненне і пад. **Сін**.: стаяць папярок горла *каму*; сядзець у пячонках *у каго, каму. Махляваць пілсудчыкі пачалі з свайго першага кроку. Барацьба беларускага народа за незалежнасць стаіць ім косткай у горле.* Машара. *Былінскі косткай у горле ў нас стаіць...* Гурскі. *Атраду Бойкі косткай у горле стаяў моцны нямецкі паліцэйскі гарнізон у сяле Бортнікі.* Кудраўцаў. **СТАЦЬ КОСТКАЙ У ГОРЛЕ** *каму, у каго. Зак. Немцам ужо стаў косткай у горле заслон на дарозе да Смаленска, і яны гатовы на ўсё, каб*

*знішчыць яго.* Дамашэвіч.

**СТА`ЯЦЬ ЛЯ КАЛ`ЫСКІ** *чаго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адыгрываць галоўную ролю пры ўзнікненні, утварэнні чаго-н. *Ля калыскі Саюза пісьменнікаў стаяў Максім Горкі.* Шамякін. *Галоўнаму рэдактару часопіса [«Вожык»], ля калыскі якога стаяў такі майстар смеху, як Кандрат Крапіва, ёсць дастаткова надзейных арыенціраў для перабудовы.* Блакіт.

**СТА`ЯЦЬ НА АДН`ОЙ Д`ОШЦЫ** *з кім, з чым. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Займаць аднолькавае становішча, быць роўным у якіх-н. адносінах. *Стаяў Хвошч, гандляр хлебам і жывёлай, на адной дошцы з панам. Нават больш заможныя ламалі перад ім шапкі.* Самуйлёнак.

**СТА`ЯЦЬ НА АДН`ЫМ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Строга прытрымлівацца якой-н. адной думкі, не адступаючы ад яе. **Сін**.: сваё права правіць; стаяць на сваім (у 1 знач.). *А той малайцаваты загадчык стаяў на адным: — Не было тых грошай у маёй кучы. Не ведаю, дзе яна іх дзела, а цяпер звальвае бяду на мяне...* Пальчэўскі. *Колькі [Сцепаніда] дацінала яго допытамі, аднак Пятрок стаяў на адным: аддаў міліцыянеру, той сказаў, што перадасць самому.* Быкаў.

**СТА`ЯЦЬ НА <АДН`ЫМ> М`ЕСЦЫ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Не рухацца наперад, не развівацца, не ўдасканальвацца. **Сін**.: таптацца на <адным> месцы. *Жыццё не стаіць на адным месцы, падзеі змяняюцца падзеямі ў нашым няспынным руху наперад.* Колас. *Косці Ячнага сёння няма, — ён недзе ў іншым калгасе, але справа і без яго, вядома, не стаіць на месцы.* Брыль. *Што датычыць увогуле нарматыўнасці мовы, то гэта з'ява, як і сама мова, не стаіць на месцы.* «Настаўн. газ.»

**СТА`ЯЦЬ НА БАК`У** *каго, чыім. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Падтрымліваць каго-н. у чым-н., падзяляць чые-н. думкі, перакананні. *А войска, вы думаеце, цалкам стаіць на баку цара?* Колас.

**СТА`ЯЦЬ НА В`АРЦЕ** *чаго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Ахоўваць, абараняць што-н. *Войт — начальства і стаіць на варце закона і парадку.* Колас. *Белы тэрор заўсёды стаяў на варце польскай дзяржаўнасці ў Заходняй Беларусі.* Таўлай. *Васіль Пятровіч адчуваў, як навокал расце пустата, але даравай жонцы гэты эгаізм, бачачы ў ім натуральнае імкненне стаяць на варце сям'і.* Карпаў.

**СТА`ЯЦЬ НА ВАЧ`АХ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Засланяць святло, перашкаджаць бачыць што-н. *—А-а-*

*а, гэта ты... Прыехаў. —І ўжо нецярпліва, як непрыемнае, [Іваніха] дадала: —Ну, не стой на вачах, не засці...* Кудравец.

**СТ`АЯЦЬ НА ВУШ`АХ**. *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Знаходзіцца ў стане выключнай напружанасці. *Відаць, аб'явілі надзвычайшчыну, і міліцыя стаяла на вушах.* Міхно. *А дзяржава і надалей будзе «стаяць на вушах» у час сяўбы, касьбы, жніва, уборкі бульбы, зімова-стойлавага перыяду, аддаючы шмат сіл і трыльёны рублёў на падтрымку грамадскага сектара.* «Нар. воля». *Спектакль пачаўся – ну, проста на вушах стаяць! Пяць хвілін мінула – цішэй стала, сем хвілін – яшчэ цішэй, восем – амаль зусім ціха. А праз дзесяць хвілін у зале была цішыня.* Дудараў.

**СТА`ЯЦЬ НА ДАР`ОЗЕ (НА ШЛЯХУ)** *чыёй, у каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знарок перашкаджаць каму-н. (звычайна ў дасягненні якой-н. мэты). **Сін**.: даваць падножку *каму*; заступаць дарогу *каму*; падстаўляць ножку *каму*; перабягаць дарогу *каму*; псаваць абедню *каму*; ставіць падножку *каму*; ставіць палкі ў кола *каму, чаго*; станавіцца на дарозе *чыёй, каму, чаму*; станавіцца папярок дарогі *каму, чыёй*; стаяць папярок дарогі *каму, каго.* **Ант**.: саступаць з дарогі (у 2 знач.); сыходзіць з дарогі. *Ганне захацелася закрычаць ад крыўды, ад адчаю. Дакуль жа ён [Яўхім] будзе ўбівацца ў яе жыццё, стаяць на яе дарозе?!* Мележ. *Той, хто стаіць на нашым шляху, нам вораг...* Быкаў. *Бараноўскага ведаюць усе — чалавек, як кажуць, з цвёрдай рукой. Стаяць у такога на дарозе, бадай, і не варта — самне.* Новікаў.

**СТА`ЯЦЬ НАД ДУШ`ОЙ** *у каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна надаядаць, назаляць сваёй прысутнасцю. **Сін**.: стаяць над каркам *у каго. Пан Юзаф страшна не любіць, калі хто стаіць у яго над душой. Ён пытае: —Вы, пане Пранусь, няйначай, хочаце запытацца ў мяне аб чым-небудзь?* Лынькоў. *Тэхнолагі напісалі фарбаю на сваіх куртках чатыры словы: «Не стой над душой», і цяпер з іх спін кожнаму, хто б ні зайшоў у апаратыўную, кідаўся ў вочы гэты выклік.* «Маладосць».

**СТА`ЯЦЬ НАД К`АРКАМ** *у каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна назаляць сваёй прысутнасцю і прымушэннем да чаго-н. **Сін**.: стаяць над душой *у каго. Брыгадзір стаіць над каркам, як прыганяты.* Навуменка. *[Завішнік:] І, каб вам не здавалася, што ў вас нехта стаіць над каркам, — пайду.* Пташнікаў. *Над каркам ніхто не стаіць, а ў нядзелю можна і тут добра адпачыць.* Машара.

**СТАЯЦЬ НА ЗАДНІХ ЛАПКАХ** *перад кім.* Гл. хадзіць.

**СТА`ЯЦЬ НА КАЛ`ЕНЯХ** *перад кім. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці зборн. прадмета. Падпарадкоўвацца каму-н., прызнаўшы сябе пераможаным. **Сін**.: здаваць <свае> пазіцыі; піць папрасіць *у каго. Гісторыя краіны лепш за ўсё бачылася ў вачах яе сыноў і дачок... У бліскучых, ззяючых вачах людзей, якія ганарацца сваім народам, яго мужнасцю і няўменнем стаяць на каленях.* Кажадуб.

**СТА`ЯЦЬ НАПР`ОЦІ СВАЙГ`О В`ЕКУ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць у маладым узросце, толькі пачынаць жыццё. **Ант**.: адной нагой стаяць у магіле; глядзець на той свет; глядзець у магілу; дыхаць на ладан (у 1 знач.); з кірмашу ехаць; зямлёй пахнуць; ледзь дыхаць (у 1 знач.). *Спадзявайся на заўтрашні дзень. Ты яшчэ дзіця. І стаіш напроці свайго веку. Ідзі ў заўтрашні дзень так, як і дагэтуль ішоў. І ён будзе табе повен шчасця.* Чорны. *А ты чаго, хлопча, устаеш так рана? Ты яшчэ стаіш напроці свайго веку...* «Полымя».

**СТА`ЯЦЬ НА СВА`ІМ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Строга прытрымлівацца якой-н. адной думкі, не адступаючы ад яе. **Сін**.: сваё права правіць; стаяць на адным. *Доўга прасіў Андрэй ляснічага, але пан быў цвёрды і стаяў на сваім.* Колас. *Асабліва не падабалася дзеду, што сыны стаяць на сваім, потым прывык.* Каваль. *—Дык у вас жа шляхта... У вас мо і за царом вучыліся. —Усё роўна. Цяпер павінны вучыцца ўсе! — стаіць на сваім Ганька.* Васілевіч.

2. Дабівацца выканання сваіх патрабаванняў. *Машыністкі плакалі і скардзіліся мясцкому ды адміністрацыі, а ён усё стаяў на сваім, аж пакуль самога не скарацілі.* Крапіва. *Ігар зірнуў на Міколу і прачытаў на яго грубаватым, заўжды нахмураным твары рашучасць стаяць на сваім.* Быкаў. *Кожная сціплая дзяўчына, хоць ёй вунь як хочацца пайсці ў тое кіно, павінна для прыліку адмаўляцца, але я стаяў на сваім: —Ну дык што? — не адступаў я.* Кузьмянкоў.

**СТА`ЯЦЬ НА ЧАЛ`Е** *чаго. Незак. Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Кіраваць чым-н., узначальваць што-н. *У Брудзянішках ужо вёў актыўную работу рэвалюцыйны камітэт. На чале яго стаяў мой даўні прыяцель каваль Арон.* Гарэцкі. **СТАЦЬ НА ЧАЛЕ** *чаго. Зак. [Старжыцкі:] Князь зразумее, ратнікаў прышле — шэсць тысяч! А не знойдзе ваяводу для іх, то я сам стану на чале змагання!* Куляшоў.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Займаць

вядучае месца, пануючае становішча. *Усё гэта зрабіла дабратворны ўплыў на развіццё.. літаратуры, на чале якой стаялі вялікія песняры беларускага народа Якуб Колас і Янка Купала.* Крапіва. **СТАЦЬ НА ЧАЛЕ** *чаго. Зак.*

**СТА`ЯЦЬ ПАПЯР`ОК (П`ОПЕРАК, УП`ОПЕРАК) Г`ОРЛА** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. адуш. ці неадуш. прадмета. Вельмі перашкаджаць, выклікаючы у каго-н. неспакой, хваляванне, раздражненне і пад. **Сін**.: стаяць косткай у горле *каму, у каго*; сядзець у пячонках *у каго, каму. Ой, бабулька Наста: гэта яго войтаўства мне ўпоперак горла стаіць.* Колас.

**СТА`ЯЦЬ ПАПЯР`ОК (П`ОПЕРАК, УП`ОПЕРАК) ДАР`ОГІ** *каму, каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Знарок перашкаджаць каму-н. (звычайна ў дасягненні якой-н. мэты). **Сін**.: даваць падножку *каму*; заступаць дарогу *каму*; падстаўляць ножку *каму*; перабягаць дарогу *каму*; псаваць абедню *каму*; ставіць падножку *каму*; ставіць палкі ў кола *каму, чаго*; станавіцца на дарозе *чыёй, каму, чаму*; станавіцца папярок дарогі *каму, чыёй*; стаяць на дарозе *чыёй, у каго.* **Ант**.: саступаць з дарогі (у 2 знач.); сыходзіць з дарогі. *Засвоенае Ганскім здаўных правіла, што з людзьмі трэба жыць у згодзе, заўсёды стаяла яму папярок дарогі, калі трэба было зрабіць той ці іншы цвёрды крок.* Крапіва. *[Лейба:] Ніколі не стой упоперак дарогі свайго дзіцяці.* Чарнышэвіч. *Яму хочацца, каб людзі заўсёды працавалі на яго, а Рыгор, бачыш, стаяў поперак дарогі і перашкаджаў панам рабіць чорную справу.* Бажко.

**СТА`ЯЦЬ ПЕРАД ВАЧ`АМІ (-`ЫМА)** *у каго, чыімі. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Неадчэпна ўзнікаць, з'яўляцца ў зрокавым уяўленні. **Сін**.: паўставаць перад вачамі *чыімі, каго*; стаяць у вачах *чыіх, каго, каму*; стаяць уваччу *каму, перад кім, у каго. І словы Ядвісі: «Калі вы мяне пацалуеце, то, клянуся памяццю мацеры, я кінуся пад машыну» — ніяк не забываліся, і сама яна, як жывая, стаяла ў яго ўвесь час перад вачамі.* Колас. *[Дубіцкі] сеў на веласіпед. Вусаты твар незнаёмага стаяў перад яго вачамі.* Чарнышэвіч. *З таго часу так і стаяць у мяне перад вачыма тая далёкая Палеская зямля, шырокія лясныя горы з абвугленымі ствaламі і адзінокае закуранае печышча сярод кучы попелу.* Хомчанка. *Я ўжо не памятаю прозвішча таго дзядзькі, не памятаю даты, а карціна расстрэлу стаіць у мяне перад вачыма і сёння.* Карпюк.

**СТА`ЯЦЬ СЦЯН`ОЙ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Дружна, аднадушна выступаць (у абарону

чаго-н., супраць чаго-н. і пад.). **Сін**.: стаяць гарой *за каго, за што*; стаяць грудзьмі *за каго, за што. У адной са мною камеры хлопец з Гродна сядзеў. За тое, што Май святкавалі, схапілі. Яны там за праўду сцяною стаяць!* Аношкін.

**СТА̀ЯЦЬ У БАК̀У** *ад чаго. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Не прымаць непасрэднага ўдзелу ў чым-н., не мець ніякага дачынення да чаго-н. **Сін**.: заставацца ўбаку; заставацца ў баку *ад чаго*; стаяць убаку. *Калі ўсе народы пачалі барацьбу за мір, супраць жахаў вайны, то і я далучыўся. Хто ж можа стаяць у баку ад такой вялікай справы?* Маўр. *Школа.. не можа стаяць у баку ад жыцця.* «Настаўн. газ.»

**СТА̀ЯЦЬ УБАК̀У (ЗБ̀ОКУ).** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Не прымаць непасрэднага ўдзелу ў чым-н., не мець ніякага дачынення да чаго-н. **Сін**.: заставацца ўбаку; заставацца ў баку *ад чаго*; стаяць у баку *ад чаго. І без нашага ўдзелу ўсё пайшло б як належыць. Аднак гэта не значыць, што мы можам стаяць убаку.* Машара. *Думаеш, будуць такія, хто змагацца не будзе, будзе ўбаку стаяць?* Сачанка. *Яны [саюзнікі] збоку стаяць, чакаюць знішчэння Расіі, а на дапамогу і не думаюць ісці.* Галавач. *Калі пачалася вайна, Міця спадзяваўся, што знойдзе ў ёй няхай сабе маленькае, непрыкметнае, але сваё месца, абы толькі не стаяць збоку. Інакш ён не мог.* Навуменка.

**СТА̀ЯЦЬ У ВАЧ̀АХ** *чыіх, каго, каму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Узнікаць, з'яўляцца ў зрокавым уяўленні. **Сін**.: паўставаць перад вачамі *чыімі, у каго*; стаяць перад вачамі *ў каго, чыімі*; стаяць уваччу *каму, перад кім, у каго. Аўтарытэт Маркі Балука высока стаяў у вачах тутэйшых партызан.* Колас. *[Валя:] Гэта яна [Надзя] табе ў вачах стаіць. Так набраў у галаву, што здані здаюцца.* Крапіва. *Як ён [Іваноўскі] ні напружваў зрок, нідзе не мог згледзець знаёмых штабялёў з жоўтых і зялёных скрынак, якія так выразна стаялі ў яго вачах з таго самага моманту, як ён убачыў іх у бінокль.* Быкаў.

**СТА̀ЯЦЬ УВАЧЧ̀У** *каму, перад кім, у каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Узнікаць, з'яўляцца ў зрокавым уяўленні. **Сін**.: паўставаць перад вачамі *чыімі, у каго*; стаяць перад вачамі *ў каго, чыімі*; стаяць у вачах *чыіх, каго, каму. Старайся ж я для Напалеона, для Рабэйкавага сына, бо ўвесь час стаяў ён мне ўваччу...* Гарэцкі. *І сёння выразна стаяць уваччу перад таварышам Захарам дзве русыя галоўкі, і агрубелыя пальцы яго нібы адчуваюць цёплы шоўк іх валос.* Лынькоў. *Гэтыя думкі крыху закалыхалі і заспакоілі настаўніка, а вобраз Ядвісі так*

*і стаяў уваччу, як бы смеючыся з яго разважанняў.* Колас. *Зыдор Пніцкі стаяў усё ў Галены ўваччу.* Чорны.

**СТА`ЯЦЬ У ВУШ`АХ** *чыіх, у каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Чуцца, з'яўляцца ў слыхавым уяўленні. **Сін**.: гучаць у вушах *чыіх, у каго*; звінець у вушах *каму, чыіх, у каго*; стаяць увушшу *каго. Курачкавы словы ўсё яшчэ стаялі ў яго вушах, нібы былі сказаны не ў сне, а наяве.* Чарнышэвіч. *Гэтыя людзі ўжо досыць наслухаліся лаянкі, нечым вельмі дакучлівым, але непазбежным стаяла яна ў іх вушах.* Лобан. *У вушах у мяне яшчэ даволі выразна стаяў смех Пятрэнкі.* Ракітны.

**СТА`ЯЦЬ УВУШШ`У** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Чуцца, з'яўляцца ў слыхавым уяўленні. **Сін**.: гучаць у вушах *чыіх, у каго*; звінець у вушах *каму, чыіх, у каго*; стаяць у вушах *чыіх, у каго. І толькі шум, бы кім насланы, бы тыя гулкія арганы, ўвушшу стаіць, грыміць і звоніць і штось няўцямнае гамоніць.* Колас. *Увушшу яго стаяў адказ аднаго з рабочых на шашы: «Знік недзе раптам, калі гэта той, каго вы шукаеце».* Чорны.

**СТА`ЯЦЬ У ГАЛАВ`Е** *каму, чыёй. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. адуш. ці неадуш. прадмета. Помніцца, не забывацца, пастаянна прысутнічаць у свядомасці каго-н. **Сін**.: не выходзіць з галавы <*чыёй, у каго*>; сядзець <цвіком> у галаве *каго, чыёй*; урэзвацца ў памяць *каму. Словы і сказы, цалкам вылітыя з разгорнутых і прызнаных выбачэнняў, стаялі ў галаве, як радкі лінатыпа.* Гартны. *—Ох, божухна мой, божухна, — ніяк не магла маці дрыжачымі ад страху рукамі зашпіліць гузік у яго на грудзях. —Такое гора, а яму яшчэ гэты сабака ў галаве стаіць.* М.Капыловіч.

*СТО* ● **АБЫХОДЗІЦЬ ЗА СТО ВЁРСТ** *каго, што.* Гл. абыходзіць.

**КРУГОМ СТО ДВАЦЦАЦЬ.** Гл. кругом.

**НА СТ`О В`ОСЕМДЗЕСЯТ ГР`АДУСАЎ** паварочваць (павярнуць), перавярнуць і пад. *Акал. Разм.* Вельмі рэзка, карэнным чынам; да непазнавальнасці. *А можа, і сапраўды — павярнуць на сто восемдзесят градусаў? Але хто паверыць цяпер?* Мікуліч. *Гэта было цяжка, а можа, нават і немагчыма — вось так адразу, без падрыхтоўкі павярнуць жыццё на сто восемдзесят градусаў.* Гігевіч. *Пасля таго шэфскага канцэрта яна [жонка] адразу змяніла тактыку. На сто восемдзесят градусаў.* Пташнікаў.

**НА ЎС`Е СТ`О.** *Разм. Адабр.* **1**. *Акал.* У поўнай меры, як і трэба (рабіць што-н., зроблена што-н.). **Сін**.: цалкам і поўнасцю. *Піша зводку старшыня. Піша, не гаруе — Жура прэміруе. Растлумачвае, за што: «Перакрыта на ўсе сто».* Крапіва. *Юрка ў гэтым*

*перакананы на ўсе сто.* Сяркоў.

**2**. *Акал.* Вельмі добра, цудоўна (жыць, рабіць што-н.). **Сін**.: будзь-будзь (у 1 знач.); будзь здароў (у 1 знач.); дай бог (у 1 знач.); дай бог кожнаму (у 2 знач.); дзякуй богу (у 1 знач.); за маё-маё (у 1 знач.); за маліну (у 2 знач.); з бляскам <у 1 знач.); кум каралю <і сват міністру> (у 3 знач.); люба-дарага; на дзіва (у 2 знач.); на поўнае вока; на пяць з плюсам; на славу (у 1 знач.); на яць (у 1 знач.); разлюлі-маліна (у 2 знач.); слава богу (у 1 знач.); хвала богу (у 1 знач.); хоць куды (у 2 знач.); што трэба (у 1 знач.); як не трэба лепш. *Ну што казаць, жылі мы на ўсе сто, на поўную малінку...* Лынькоў.

**3**. *Вык. і азн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр прадмета. Вельмі добры, цудоўны. **Сін**.: адным словам[1]; без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); будзь-будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); кругом сто дваццаць; на славу (у 2 знач.); на ўсе рукі; на яць (у 2 знач.); па крайняй меры (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога; першай гільдыі (у 1 знач.); першай рукі (у 1 знач.); першы клас; першы сорт; разлюлі-маліна (у 1 знач.); рэдкай рукі; слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.); як яечка. *А ты, Змітрок, хлопец на ўсе сто.* Савіцкі. *—Нашаму брату якая жонка трэба? Каб і памыла, і зварыла, і па магазінах пабегала, наогул, на ўсе сто баба. —Табе, відаць, не жонка, а служанка трэба?* Грахоўскі. *Конь, як кажуць, на ўсе сто.* Адамчык. *Не дарэмна ён, Наждак Маруда, абраў такую спецыяльнасць — электраслесар. На ўсе сто спецыяльнасць.* Казько.

**СТО БОЧАК АРЫШТАНТАЎ** *нагаварыць*. Гл. бочку.

**СТО РУБЛЁЎ НЯСТАЧЫ.** Гл. рублёў.

**ЯК НА СТО КОНЕЙ СЕЎ.** Гл. сеў.

*СТОЗЕ* • **НЕ ІГОЛКА <У СТОЗЕ СЕНА>.** Гл. іголка.

**ЯК ІГОЛКА Ў СТОЗЕ <СЕНА>.** Гл. іголка.

*СТОЙ* • **ХОЦЬ СТ`ОЙ ХОЦЬ П`АДАЙ.** *Толькі ў гэтай форме. У безас ужыв. Разм. Неадабр.* З-за сарамлівасці ці збянтэжанасці невядома, што рабіць. *Ды з Тарасіхаю не вельмі паспрачаешся. Яна ў вочы можа табе такое пекануць — хоць стой хоць падай! Ніколі «далікатных» слоў не выбірае.* Місько. *Дарослы чалавек, паводзіць сябе так, што хоць стой хоць падай — не скажаш, ён разумны ці ёлупень.* Супрунчук. *Нэля кпліва агледзела яе [Вольгу] з ног да галавы. —Ты, дзеўка, як выдасі што — хоць стой хоць падай.* Капусцін. *Бабуля наўмысна гучна засмяялася: — Не звяртайце*

*ўвагі. Яна ў нас заўсёды такая, як скажа што-небудзь — хоць стой хоць падай.* «Настаўн. газ.»

**ЯК СТ`ОЙ.** *Акал. Разм.* Вельмі хутка (рабіць, зрабіць што-н., адбываецца што-н.). **Сін**.: у адзін мах; у адзін міг; у <адзін> момант; у <адну> мінуту; у імгненне вока; у міг вока; у момант вока; як бач; як бачыш (у 1 знач.); як вокам зглядзець (у 1 знач.); як га; як слова сказаць. *І пракос у пракос вырастае як стой, — пан з карэтай бы пэўна праехаў між іх.* Купала. *Бяжы зараз пакліч Мікіту Лаўрынёнка. Скажы, каб як стой быў тут.* Зарэцкі. *[Хлопчык] пабегае па Звонічах месяцы са два, дык і налаўчыцца [гаварыць па-беларуску] як стой, ад іншых звоніцкіх хлапчукоў неўзабаве не адрозніш.* Гіль.

*СТОЛ* ● **ВЫКЛАДВАЦЬ <СВАЕ> КАРТЫ <НА СТОЛ>.** Гл. выкладваць.

**КР`УГЛЫ СТ`ОЛ.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Публічны абмен думкамі; нарада, абмеркаванне чаго-н. на роўных правах удзельнікаў. *4 красавіка ў канферэнц-зале Дома літаратара быў праведзены «круглы стол»... Уступным словам «круглы стол» адкрыў Ніл Гілевіч.* «ЛіМ». *Кожны ўдзельнік «круглага стала» быў дасведчаным госцем, па слова ў кішэню не лез і выказваўся па сутнасці.* «Полымя».

**СТ`ОЛ Л`ОМІЦЦА (ЛАМ`АЎСЯ)** *ад чаго. У безас. ужыв. Разм.* Шмат настаўлена чаго-н. (харчовых прадуктаў). *[Маланне Адамаўна:] І навошта валок... Мы ж не бедныя. А наразаць не будзем. Навошта? І так стол ломіцца.* Э.Валасевіч. *Стол ломіцца ад закускі раскошнай...* Чэрня. *Частка людзей адразу ж вярнулася ў пакой, дзе стол ламаўся ад усякай яды.* Чорны.

**ПАД СТОЛ ПЯШКОМ ХОДЗІЦЬ.** Гл. ходзіць.

**У СТ`ОЛ** <u>*пісаць (напісаць)*</u>. *Акал. Разм.* Без надзеі на апублікаванне напісанага ў бліжэйшай будучыні. **Сін.**: у шуфляду. *Віцьбіч.. слухаў вершы Маракова, напісаныя «ў стол», не для друку, сапраўдную паэзію…* Рублеўская. *На жаль, уся гэтая інтэнсіўная праца да пары да часу вялася ў стол.* Тычка. *Беларускіх пісьменнікаў папракалі, што яны ніколі не пісалі «ў стол»… Але ж «Сказ пра Лысую гару» — абвяржэнне гэтай высновы.* «ЛіМ». *Віталь Сцяпанавіч шмат разважае аб праблемах сучаснай вышэйшай школы, шмат піша на гэту тэму. Штосьці ў стол ці для абмеркавання з калегамі, штосьці для друку.* «Настаўн. газ.» *Так ахвярна пісьменнікі пішуць у стол. Хто нас выдасць пасля, прачытае?..* Пашкоў.

*СТОЛІ* ● **СА СТ`ОЛІ** <u>*браць (узяць), запісваць*</u> і пад. *Акал. Разм. Іран.* Без дастатковых падстаў, наўздагад. *Лічбы ўзяты са столі: на*

*самай справе ў беларускай мове налічваецца не 80000, а шмат больш слоў.* Крапіва. *Вы чалавек бывалы, павінны разумець, што ў нашай установе факты са столі не бяруць.* Шыцік. *Цяпер многія лічаць: можа, няма тут крадзяжу ў прамым сэнсе слова? Проста жывёлу не важылі, а прывагі запісвалі са столі.* «Звязда».

*СТОЛКІ* • **У ДЗВ`Е (ТР`Ы) СТ`ОЛКІ.** *Акал. Разм.* Выключна, незвычайна (рады, вясёлы і пад.). *А потым ён [бацька], як Бульба, дужаўся з імі і рад быў, як сам казаў, у дзве столкі, што і хлопцы выраслі, дый ты яшчэ не ўломак, нават большага гэпнуў...* Брыль. *[Мікітка] як бяжыць у школу, без канца вясёлы, як бяжыць са школкі, весялей ў тры столкі.* Крапіва.

*СТОЛКУ* • **У АДН`У СТ`ОЛКУ.** *Вык. ці азн. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Вельмі малы, мізэрны. *[Яська] толькі летась скончыў школку і веды меў у адну столку.* Колас. *Большасць такіх, падсаджаных чужымі рукамі, у каго веды ў адну столку, на першым-другім курсе звычайна адсейваюцца.* Навуменка. *Ну, што я магла тады?.. І веды былі ў мяне ў адну столку, і людзьмі не ўмела кіраваць.* Сіняўскі.

*СТОЛЬ* • **ПЛЯВАЦЬ У СТОЛЬ.** Гл. пляваць.

*СТОП* • **СТ`ОП МАШ`ЫНА.** Гл. машына.

Патрэбны, трэба **ЯК З`АЙЦУ СТ`ОП-СІГН`АЛ.** *Акал. Разм. Іран.* Зусім не, ніколькі не (патрэбны каму-н.). **Сін**.: як дзірка ў мосце; як леташні снег; як пятае кола ў возе; як рыбе парасон; як сабаку пятая нага. *Праўду сказаць, патрэбны быў гэты адпачынак Сурыну як зайцу стоп-сігнал, — два тыдні, якія не дагуляў летам, бо тэрмінова выклікалі на завод.* Радкевіч. *Мы ідзём праверыць, ці не гуляе хто-небудзь з нашага класа. Праверым і пойдзем дамоў. Трэба нам тая гулянка як зайцу стоп-сігнал.* Сяркоў. *—Мне гэты катух трэба як зайцу стоп-сігнал, — азірнуўся на дзверы старшыня.* Левановіч. *Лясгас адвеку тыя сенажаці не касіў. Патрэбны яны лясгасу як зайцу стоп-сігнал...* Праскураў.

*СТОЎПАТВАРЭННЕ* • **ВАВІЛ`ОНСКАЕ СТОЎПАТВАР`ЭННЕ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* Поўная неразбярыха, беспарадак, гармідар. **Сін**.: мамаева пабоішча (у 2 знач.); садом і гамора; страсці-мардасці; сыр-бор; шурум-бурум. **Ант**.: ціш ды гладзь. *У абедзвюх чакальных залах вавілонскае стоўпатварэнне, людзі ў шынялях стаялі, сядзелі, нават пад лаўкамі ляжалі — ішла вялікая дэмабілізацыя.* Навуменка. *У базарныя дні, у дні кірмашоў на абедзвюх частках пануе вавілонскае стоўпатварэнне: у радах машын і вазоў на плошчы можна заблудзіцца.* Місько.

*СТОЧВАЦЬ* ● **СТ`ОЧВАЦЬ КАНЦ`Ы З КАНЦ`АМІ.** *Незак. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Задавальняць жыццёвыя патрэбы, знаходзячы выйсце з цяжкага матэрыяльнага становішча. **Сін**.: зводзіць канцы з канцамі (у 1 знач.). *Калі муж працаваў — сточвалі канцы з канцамі і жылі, а цяпер так туга!* Гартны. **СТАЧЫЦЬ КАНЦЫ З КАНЦАМІ.** *Зак. Падкармлю вось парсюкоў, мо сточым канцы з канцамі на год, а там — бог бацька.* Мурашка.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Пераадольваючы перашкоды, узгадняць розныя бакі чаго-н., яднаючы іх у адно. **Сін**.: зводзіць канцы з канцамі (у 2 знач.); звязваць канцы з канцамі. *Раней саўгасы былі толькі ў колішніх маёнтках, а цяпер усе заняпалыя гаспадаркі дзяржава ўзваліла на свае плечы і неяк сточвае канцы з канцамі.* Грахоўскі. **СТАЧЫЦЬ КАНЦЫ З КАНЦАМІ.** *Зак.*

*СТРАКАЧА* ● **ДАВАЦЬ СТРАКАЧА** *ад каго, адкуль, куды.* Гл. даваць.

*СТРАЛЯЙ* ● **Х`ОЦЬ <Т`Ы> У Л`ОБ СТРАЛ`ЯЙ** *каму. Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Немагчыма пераканаць каго-н., растлумачыць каму-н. і пад. Пра ўпартага, няўступчывага чалавека. **Сін**.: хоць кол на галаве чашы *каму. Хоць страляй яму ты ў лоб, так як тое дрэва. Ці ты чуеш, асталоп?! Пасунь мех улева!* Крапіва. *[Цесля:] Не выходзяць на работу, і ўсё... Другому хоць ты ў лоб страляй.* Макаёнак. *Цяперашнім дзецям хоць у лоб страляй — сваё права правяць...* Місько.

*СТРАЛЯЦЬ* ● *З чаго* **НЕ СТРАЛ`ЯЦЬ.** *У безас. ужыв. Разм.* Што-н. будзе і так добра; не мае значэння, што няроўнае, нягладкае і пад. што-н. *—Касабокія трохі [жорны], — для сціпласці ўздыхнуў я. —З іх не страляць! — суцешыла мяне бабка.* Сяркоў. *—Шпянёвая скрынка, таварыш Мотуз, не вельмі гладкая знешне. —З яе не страляць, Раман Іванавіч...* Мыслівец. *Спачатку старыя не хацелі габляваць, ды нават і сякераю пашчыраваць, упіналіся, маўляў, з яе не страляць, з гэтай альтанкі...* Кусянкоў.

**СТРАЛ`ЯЦЬ (Б`ІЦЬ) З ГАРМ`АТЫ (З ГАРМ`АТ) ПА ВЕРАБ'`ЯХ.** *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Траціць шмат сіл, сродкаў на дробязі. *—Проста я сказаў, каб прадумвалі кожную аперацыю, каб з гармат па вераб'ях не стралялі. —Гэта і насцярожвае мяне У цябе няма ніякай падставы лічыць, што яны з гармат па вераб'ях страляюць. Яны ўдала спраўляюцца з заданнямі.* Новікаў. *Можа, зусім дарма сталаму майстру, паэту, які нязменна стаяў на чале літаратуры, было «біць з гарматы па вераб'ях»?* Лужанін.

**СТРАЛ`ЯЦЬ ВАР`ОН.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са

знач. асобы. **1**. Рассеяна глядзець на што-н. з пустой цікавасцю. **Сін**.: лавіць варон (у 1 знач.); лавіць мух (у 1 знач.). *Юнак.. загледзеўся і наткнуўся на вусатага дзядзьку з гаспадарскай сумкай. —Маладьі чалавек, не страляйце варон...* Пянкрат. *—Чаго варон страляеш, хлопча, — нечакана пачуў я побач голас прахожага. —Няўрокам кажучы, гэтак і пад машыну трапіць нядоўга.* Шыловіч.

**2**. Прапускаць зручны момант з-за няспрытнасці, непаваротлівасці. **Сін**.: лавіць варон (у 2 знач.); лавіць мух (у 3 знач.); лічыць варон (у 3 знач.). *—А як яе, гэту зямлю, могуць падзяліць? Усім пароўну? —Пароўну ці не пароўну, але можа здарыцца так, што той, хто будзе варон страляць, кукіш возьме.* Лобан.

**СТРАЛ`ЯЦЬ ВАЧ`АМІ (-`ЫМА, В`ОЧКАМІ).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Кідаць кароткія, хуткія позіркі. **Сін**.: стрыгчы вачамі. *Сарока, сыплючы словамі, страляла вочкамі то на аднаго, то на другога, а найчасцей на старога Глушака.* Мележ.

**2**. Какетліва паглядаць на каго-н. **Сін**.: строіць вочкі *каму. Зоя з Валодзем пачалі паміж сабою горача спрачацца, перабіваць адно аднаго. Пры гэтым так шчасліва стралялі вачыма, што.. [Мая Антонаўна] ім пазайздросціла.* Карпюк.

*СТРАСЦІ* ● **СТР`АСЦІ-МАРД``СЦІ**. *Адз. не ўжыв. Часцей дзейн., звычайна ў спалучэнні з займ.-канкрэтызатарам (гэты, такі, які і інш.). Праст.* Беспарадак, самавольства, неразбярыха. **Сін.**: вавілонскае стоўпатварэнне; мамаева пабоішча (у 2 знач.); садом і гамора; сыр-бор; шурум-бурум. **Ант**.: ціш ды гладзь. *[Галубовіч:] Значыць, ускрыцця* [нябожчыка] *не будзем рабіць? [Ракітны:] Дзе там ужо. Бачыце ж, якія тут страсці-мардасці.* Крапіва. *У Йемене адзін паэт застрэліў трох «сваіх» парадыстаў… А пасля хацеў уцячы адтуль са сваім пятнаццацігадовым сынам… Аднак сябры парадыстаў дагналі іх і паэта застрэлілі. Во якія страсці-мардасці – жудасныя і трагічныя – твораца вакол паэзіі, а вы кажаце, што яна памірае….* Л.Галубовіч. *Вырашэнню гэтага канфлікту аўтар надае выключнае значэнне і па меры сіл* і *магчымасцей падаграваe вакол яго ўсякія «страсці-мардасці», ператвараючы гэты канфлікт ледзь не ў трагедыю.* Лынькоў. *Па-ранейшаму нагнятаюцца жахі-страхі, публічна награмаджаюцца неймаверныя спекуляцыі. А навошта ўсе гэтыя страсці-мардасці, панове?* Гілевіч.

*СТРАХ* ● **НА СВ`ОЙ СТР`АХ І Р`ЫЗЫКУ.** *Акал. Функц. не зам.* Разлічваючы толькі на сябе, прымаючы ўсю адказнасць на сябе

(рабіць што-н.). *Я дасюль толкам не ведаю, ці мае чалавек права, ну скажам, у ліхую гадзіну для радзімы дзейнічаць на свой страх і рызыку?* Карпаў. *Вядома, рабілася ўсё гэта на свой страх і рызыку, без уліку норм тэхнікі бяспекі і супрацьпажарных правіл.* «Звязда». *Ніхто не абазваўся, і мне нічога не заставалася іншага, як на свой страх і рызыку зайсці ў сабор.* Макарэвіч.

**НЕ ЗА СТР`АХ, А ЗА СУМЛ`ЕННЕ** _працаваць, рабіць, служыць_ і пад. *Акал. Функц. не зам.* Вельмі старанна, аддана, добрасумленна. *[Пісар:] Начальства запытаецца: хто такі Мірон? А я напішу: Мірон — сторараж, Мірон — бацька, служыць не за страх, а за сумленне...* Галубок. *Гэты Файлу быў сам рабочы, але за тое, што вельмі дагаджаў гаспадарам, ён быў зроблены старшым над рабочымі і выконваў свае абавязкі не за страх, а за сумленне.* Маўр.

*СТРАХА* ● **СТРАХА НАД ГАЛАВОЙ.** Гл. дах.

*СТРАХОЙ* ● **ПАД АДНОЙ СТРАХОЙ.** Гл. дахам.

**ПАД Б`ОГАВАЙ СТРАХ`ОЙ.** *Разм.* **1**. *Азн. і Акал.* Не ў памяшканні. **Сін**.: на свежым паветры; пад адкрытым небам; пад голым небам. *Напярэдадні я наведаў гэты цікавы, арыгінальны, «пад богавай страхою», музей: зямлянкі, накрытыя дзёрнам і з акенцамі, нары пры сценках, печкі з бляхі, лаўкі каля дзвярэй перад кожнаю зямлянкаю...* Янкоўскі.

**2**. *Акал.* На свеце, у наваколлі. *Чубару было цікава адгадаць наперад, каго раптам вывеў клопат за вёску, аднак дарэмна: цяпер, калі ўсё перайначылася пад богавай страхой і не паддавалася вызначэнню, можна было меркаваць і так і гэтак.* Чыгрынаў.

*СТРАХУ* ● **РЫЦАР БЕЗ СТРАХУ І ДАКОРУ.** Гл. рыцар.

*СТРАЦІЦЬ* ● **СТРАЦІЦЬ ГАЛАВУ.** *Зак. да* **ТРАЦІЦЬ ГАЛАВУ.**

*СТРАЧВАЦЬ* ● **СТРАЧВАЦЬ ГАЛАВУ.** Гл. губляць.

*СТРОІЦЬ* ● **СТР`ОІЦЬ В`ОЧКІ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Какетліва паглядаць на каго-н. **Сін**.: страляць вачамі (у 2 знач.). *[Вясніна:] Нашы жанчыны, калі трэба было, з вінтоўкай у руках абаранялі свабоду... А вочкі строіць — не такая вялікая навука... патрапім... абы было каму...* Гурскі. *Потым ён з жахам даведаўся, што ўвесь час, пакуль ён марыў аб ёй ды ўздыхаў, а яна строіла яму вочкі, нягодніца жыла з абармотам-капітанам рачнога парахода.* Карпюк.

**СТР`ОІЦЬ З СЯБ`Е** *каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Старацца выдаць сябе за каго-н. — *Дарма вы строіце з сябе генія разведкі, — звярнуўся Сяргей Сяргеевіч да арыштаванага.* Новікаў. *Дар'я выпале [палын]. Гэта табе не*

*Анюта другога Масляка, што ахмістрыню з сябе строіць.* Мысліве ц.

*СТРОЙ* ● **ВЯРТАЦЦА Ў СТРОЙ.** Гл вяртацца.

**СТАНАВІЦЦА Ў СТРОЙ.** Гл. станавіцца.

**УСТУПАЦЬ У СТРОЙ.** Гл. уступаць.

*СТРОЮ* ● **ВЫБЫВАЦЬ СА СТРОЮ.** Гл. выбываць.

**ВЫБЫЦЦЁ СА СТРОЮ** *чыё, каго.* Гл. выбыццё.

**ВЫВАД СА СТРОЮ** *чаго.* Гл. вывад.

**ВЫВОДЗІЦЦА СА СТРОЮ.** Гл. выводзіцца.

**ВЫВОДЗІЦЬ СА СТРОЮ.** Гл. выводзіць.

**ВЫХАД СА СТРОЮ** *чаго.* Гл. выхад.

*СТРУЖКУ* ● **ЗДЫМАЦЬ СТРУЖКУ** *з каго.* Гл. здымаць.

*СТРУНКА* ● **СЛ`АБАЯ СТР`УНКА** *чыя, каго. Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Найбольш чуллівая, уразлівая рыса, асаблівасць характару, на якую лёгка ўздзейнічаць. **Сін**.: ахілесава пята <*чыя, каго, у каго*>; вузкае месца <*дзе, у каго*>; <самае> балючае месца *чыё, у каго* (у 2 знач.); слабае месца *чыё, каго, у каго, у чым. Санкоўскі, ведаючы слабую струнку старога, прапанаваў заспяваць пра нейкага Бавэлка, пэпээсаўскага прафсаюзнага дзеяча.* Пестрак.

*СТРУННУ* ● **ВЫЦЯГВАЦЦА Ў СТРУНКУ.** Гл. выцягвацца.

*СТРУНЦЫ* ● **ХАДЗІЦЬ ПА СТРУНЦЫ** *перад кім, у каго.* Гл. хадзіць.

*СТРУП* ● **ЯК ВОШ НА СТРУП.** Гл. вош.

*СТРЫГЧЫ* ● **СТР`ЫГЧЫ ВАЧ`АМІ (-`ЫМА).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Кідаць кароткія позіркі на каго-н. **Сін**.: страляць вачамі (у 1 знач.). *Сват Рыгорка стрыг вачамі, стараючыся непрыкметна кінуць позіркі на маладуху, улавіць яе настрой.* Дуброўскі. **ПАСТРЫГЧЫ ВАЧАМІ (-ЫМА).** *Зак. З хаты борздзенька высунуўся нізенькі Марцін Ваўчок, пастрыг вачамі, злавіў за нашыйнік ахрыплага ад брэху сабаку.* Адамчык.

**СТР`ЫГЧЫ ВУШ`АМІ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Насцярожана прыслухоўвацца. **Сін**.: вастрыць вушы; глядзець у рот *каму* (у 1 знач.); настаўляць вушы; натапырваць вушы; ператварацца ў слых; развешваць вушы (у 1 знач.). — *Ты што ўсё вушамі стрыжэш? — Я? Здаецца, чуваць нешта. Бы галасы...* Быкаў.

**СТР`ЫГЧЫ КУП`ОНЫ.** *Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Жыць на працэнты з каштоўных папер. *Але разам з іроніяй грызянула крыўда за сябра, што той лічыць, быццам ён, сумленнейшы прадпрымальнік, вытворца; некалі несправядліва падзяліў выручку за салярку. «Дзякуй сказаў бы. купоны стрыжэш*

*без клопату. А я тавары для народа выпускаю. Кручуся, што вавёрка».* Шамякін.

2\. *Неадабр.* Беспадстаўна мець які-н. набытак, грошы, славу і пад. *—Маўчыш, няма чаго адказваць. А карысці ад вашай арміі кандыдатаў і дактароў? Сядзяць гадамі, дзесяцігоддзямі. Стрыгуць купоны і ўсё. —Іна, супакойся, не ўтрыруй...* Якутаў. *Той, хто бессаромна стрыжэ купоны з ганьбавання.. традыцый, несумненна дыскрэдытуе сваю творчую прафесію і павінен несці за гэта адказнасць.* «Звязда».

**СТР`ЫГЧЫ ПАД АДЗ`ІН ГРАБЯН`ЕЦ (ГР`ЭБЕНЬ)** *каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Раўняць у якіх-н. адносінах, не лічачыся з індывідуальнымі асаблівасцямі, адрозненнямі. **Сін**.: адным махам сямярых забіяхам (у 1 знач.); мераць адной меркай *каго, што*; мераць на адзін аршын *каго, што*; мераць на адзін капыл *каго, што*; ставіць на адну дошку *каго з кім, што з чым, каго і каго, што і што*; ставіць знак роўнасці *паміж кім, паміж чым*; ставіць у адзін рад *каго з кім. Не хачу, не маю права стрыгчы пад адзін грабянец усіх аўтараў зборніка.* Лужанін. *Ці ж гэта разумна ўсіх падрад пад адзін грэбень стрыгчы.* Праскураў. *Спец спецу, практык практыку — розніца. Нельга мераць усіх на адзін капыл, стрыгчы пад адзін грэбень.* Блакіт. **ПАСТРЫГЧЫ ПАД АДЗІН ГРАБЯНЕЦ (ГРЭБЕНЬ)** *каго. Зак.*

**СТР`ЫГЧЫ ПАД СВ`ОЙ ГРАБЯНЕЦ (ГР`ЭБЕНЬ)** *каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Падганяць каго-н. пад свае ўяўленні, пад уласны пункт погляду. **Сін**.: бачыць са сваёй званіцы *што*; глядзець са сваёй званіцы *на каго, на што*; мераць на свой аршын *каго, што*; мераць на свой капыл *каго, што. Ці мае права на сваю асаблівую, так сказаць, «фірменную» мову тая ці іншая рэдакцыя? Такая тэндэнцыя ў некаторых рэдакцыях праяўляецца досыць выразна. Прыхільнікі гэтай тэндэнцыі стрыгуць усіх аўтараў пад свой грабянец.* Крапіва. **ПАСТРЫГЧЫ ПАД СВОЙ ГРАБЯНЕЦ (ГРЭБЕНЬ)** *каго. Зак. Надта вялікія вы мудрацы былі... І надта вам хацелася пастрыгчы ўсіх пад свой грэбень...* Кудравец.

*СТРЫЖКА* ● **СТР`ЫЖКА ПАД АДЗ`ІН ГРАБЯН`ЕЦ**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Аднолькавая ацэнка каго-, чаго-н., без уліку адрозненняў. *Тыпізацыя лягчэй выводзіцца пры характарызаванні з'явы. Што ж, як гаворыцца, да персаналіяў, то тут стрыжка пад адзін грабянец складаней.* Мехаў.

*СТРЫМАЦЬ* ● **СТРЫМАЦЬ <СВАЁ> СЛОВА.** *Зак. да* **ТРЫМАЦЬ**

**<СВАЁ> СЛОВА.**

**СТРЫМАЦЬ СЯБЕ.** *Зак. да* **СТРЫМЛІВАЦЬ СЯБЕ.**

**СТРЫМАЦЬ ЯЗЫК ЗА ЗУБАМІ.** *Зак. да* **ТРЫМАЦЬ ЯЗЫК ЗА ЗУБАМІ.**

*СТРЫМЛІВАЦЬ* • **СТР`ЫМЛІВАЦЬ СЯБ`Е.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Устрымліваціца ад праяўлення сваіх пачуццяў, якіх-н. дзеянняў. **Сін**.: валодаць сабой; трымаць нервы ў кулаку; трымаць сябе ў руках. *А як жа ён [Марынковіч] скрыгітаў зубамі і ледзьве стрымліваў сябе, сам пераняўшы яе словы: — І я перад табою спавядацца не буду, як я жыву і як хачу жыць.* Чорны. **СТРЫМАЦЬ СЯБЕ.** *Зак. Першым намерам было падысці і пастукаць у дзверы. Але Святлана стрымала сябе. «Прасіць? Не, нізавошта!»* Шахавец.

*СТРЭЛ* • **НА ГАРМ`АТНЫ (П`УШАЧНЫ) СТР`ЭЛ (В`ЫСТРАЛ)** *не падпускаць; нельга (не трэба) падпускаць. Акал. Разм.* Зусім, ні ў якім разе (не падпускаць каго-н.). *Калісьці, здаецца, Поль Фор выказаў думку, што паэзіяй нельга займацца, з ёй трэба нарадзіцца. А ў нас паэзіяй займаюцца нават тыя, каго і на гарматны стрэл не трэба б да яе падпускаць.* Танк. *Праўда, дарослыя яшчэ, як пішуць у кнігах, і на гарматны выстрал не падпускалі малых да рыдлёвак.* Паслядовіч. *Будзеш ты шкадаваць пасля, калі парвеш са мной дружбу. На парог дома тады не з’яўляйся. На пушачны выстрал не падпушчу...* Шамякін.

*СТРЭЛАМ* • **<АДНЫМ СТРЭЛАМ> ЗАБІВАЦЬ ДВУХ ЗАЙЦАЎ.** Гл. забіваць.

*СТРЭЛІЦЬ* • **СТР`ЭЛІЦЬ ВАЧ`АМІ (-`ЫМА).** *Зак. Аднакр. да* страляць вачамі. *Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Кінуць кароткі, хуткі позірк. *У калідоры яму [Васілю Мікалаевічу] сустрэўся наладчык Анатоль Сцепачэнка. Павіталіся. Анатоль стрэліў вачамі, хмурна кінуў і адвярнуўся.* Капусцін. *Нават суровы сакратар з лісінаю мордачкай усміхнуўся і стрэліў вачыма.* Мурашка. – *Якая ж я пабочная асоба? – ускліннула Мар’яна. Мальвіна Ягораўна зноў стрэліла ў яе вачыма.* Васілёнак.

**СТР`ЭЛІЦЬ У ГАЛАВ`У** *каму. Зак. Разм. Часцей у безас. ужыв. Разм.* Раптоўна, выпадкова з’явіцца ў свядомасці. Пра думку, ідэю і пад. **Сін**.: лезці ў галаву *каму*; прыходзіць на думку *каму* (у 1 знач.); прыходзіць у галаву *каму* (у 1 знач.); стукнуць у галаву *каму* (у 1 знач.); узбрысці на розум *каму*; узбрысці ў галаву *каму* (у 1 знач.); усплываць на памяць *каму, у каго*; усплываць у памяці *каго, чыёй*; цюкнуць у галаву *каму. Чорт ведае, што можа стрэліць у галаву раз’юшаным суддзям. Чакай тады зноў за кратамі апеляцыі.*

Машара. *Раптам дзяўчыне стрэліла ў галаву, што яна ад плачу змянілася ў твары.* Карпюк. *Рабіць усё трэба з розумам, падумаўшы, а не так, як Сурміла: стрэліла нешта ў галаву — крышы, ламі!* Блакіт.

*СТРЭЛЯНАЯ* ● **СТРЭЛЯНАЯ ПТУШКА.** Гл. птушка.

*СТРЭЛЯНЫ* ● **СТРЭЛЯНЫ ВЕРАБЕЙ.** Гл. верабей.

**СТРЭЛЯНЫ ВОЎК.** Гл. воўк.

*СТРЭЧНЫ* ● **ПЕРШЫ СТРЭЧНЫ.** Гл. сустрэчны.

**СТР`ЭЧНЫ <І> ПАПЯР`ЭЧНЫ.** *Адз. і мн. Разм.* **1**. *Часцей дап.* Любы чалавек, які толькі трапіцца. **Сін**.: і жук і жаба; кожны сабака; кожны сустрэчны; пастухова ганна; першы-лепшы (у 1 знач.); першы сустрэчны. *Чорным груганнём нізрынуліся гітлераўцы на Доўгі Брод... Стралялі стрэчных і папярэчных.., усе перад імі былі вінаватыя...* Кандрусевіч.

**2**. *Азн.* Ужыв. пры наз. са знач. асобы. Няважна які, любы. **Сін**.: першы-лепшы (у 2 знач.). *Вольга і без гэтага дагадалася, што да Пытля дайшла тая чутка ці мо праўда, якую яна расказвала стрэчным і папярэчным бабам.* Адамчык. *Прырода, дзетка, устойлівая, абы-каму, стрэчнаму-папярэчнаму набрыдзе якому сакрэтаў сваіх не раскрые.* Масарэнка.

*СТУКАЦЦА* ● **СТ`УКАЦЦА Ў ДЗВ`ЕРЫ.** *Незак.* **1**. *чаго, да каго, якія. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Часта звяртацца з просьбамі да каго-н. **Сін**.: абіваць парогі *чые, каму, каго, чаго*; стукаць у дзверы (у 1 знач.). *Давялося Леаніду Уладзіміравічу, зняўшы шапку, стукацца ў дзверы розных устаноў, выпрошваць кармы.* Дуброўскі. *Хутка ў дзверы да першамайцаў пачалі стукацца земляробы з сельгасарцелі «Хвалі рэвалюцыі»: — Вазьміце нас да сябе!* Мяжэвіч. *Гэта ж ужо і тады легенды пра яго [Муравіцкага] хадзілі... Пра тое, як праўдамі і няпраўдамі, стукаючыся ў розныя дзверы і па шмат разоў у адны і тыя ж, здабыў у Мінску генератар.* Гіль.

**2**. *Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Няўхільна наступаць, набліжацца, даючы знаць аб сваім з'яўленні. **Сін**.: насіцца ў паветры; наступаць на хвост *каму* (у 2 знач.); стукаць у дзверы (у 2 знач.). — *Вясна стукаецца ў дзверы,* — *гаворыць старшыня калгаса.* Броўка. *Кіраўнікі і спецыялісты, відаць, спадзяюцца на літасць зімы. А халады ўжо стукаюцца ў дзверы, і гэта сур'ёзнае папярэджанне.* «Звязда». *Зіма стукаецца ў дзверы. Прайшоў сезон на чаравікі.* Леvановіч. *Перадумвае Андрэй весткі з нядаўняй прэсы — рэха сесіі сейма, выступленні Пілсудскага, разгул дэмагагічнай траскатні і разам з тым боязь*

*крызісу, які стукаецца ў дзверы.* Пестрак.

*СТУКАЦЬ* ● **СТ`УКАЦЬ У <ВА ЎС`Е> ДЗВ`ЕРЫ.** *Незак.* **1**. *Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Часта звяртацца з просьбамі да каго-н. **Сін**.: абіваць парогі *чые, каму, каго, чаго*; стукацца ў дзверы (у 1 знач.). *Вядома, хто дальш ад кватэры, таму менш стукаюць у дзверы.* Колас. *— Цяпер зразумелі, чаго я папрасіўся да вас? — спытаў Вальцоў. — Звярніце ўвагу: тры гады стукаем ва ўсе дзверы, і без выніку.* Новікаў. *Калі што, пішыце яшчэ... Стукайце, як кажуць, ва ўсе дзверы.* Кухараў.

**2**. *Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Няўхільна наступаць, набліжацца, даючы знаць аб сваім з'яўленні. **Сін**.: насіцца ў паветры; наступаць на хвост *каму* (у 2 знач.); стукацца ў дзверы (у 2 знач.). *[Сяргей] хаваў, як страус, галаву пад крыло, каб не бачыць небяспекі. Небяспека тым часам даўно стукала ў дзверы.* Навуменка.

*СТУКНУЛА* ● **МАЧА Ў ГАЛАВУ СТУКНУЛА** *каму.* Гл. мача.

*СТУКНУЦЬ* ● **ПАЛЕЦ АБ ПАЛЕЦ НЕ СТУКНУЦЬ.** Гл. ударыць.

**СТ`УКНУЦЬ У ГАЛАВ`У** *каму. Зак. Разм.* **1**. *Часцей у безас. ужыв.* Раптоўна, выпадкова з'явіцца ў свядомасці. Пра думку, ідэю і пад. **Сін**.: лезці ў галаву *каму*; прыходзіць на думку *каму* (у 1 знач.); прыходзіць у галаву *каму* (у 1 знач.); стрэліць у галаву *каму*; узбрысці на розум *каму*; узбрысці ў галаву *каму* (у 1 знач.); усплываць на памяць *каму, у каго*; усплываць у памяці *каго, чыёй*; цюкнуць у галаву. *Здае гэты «тавар» таварыш Катловіч у багаж, а таможніку нешта стукнула ў галаву — прычапіўся: адкрывай кашы.* Грахоўскі. *«Ці не Ганна?» — стукнула ў галаву выразная думка.* Гартны.

**2**. У *безас. ужыв. Ужыв. ў спалучэнні з інф.* Раптоўна адчуць патрэбнасць у чым-н.; захацець, наважыцца. **Сін**.: прыходзіць на думку *каму* (у 3 знач.); прыходзіць у галаву *каму* (у 3 знач.); узбрысці ў галаву *каму* (у 2 знач.). *У Кацярыны Філатаўны вада заўсёды была напагатове, бо яна ніколі пэўна не ведала, калі яе мужу стукне ў галаву галіцца.* Гаўрылкін. *Доўгі час нічога не парушала іх моцнай дружбы, пакуль Лявону не стукнула ў галаву завясці ў сябе дома ангорскіх трусоў.* Дамашэвіч.

**3**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн., які абазначае пітво. Ап'яніць. **Сін**.: біць па галаве; ударыць у галаву *<каму>*. *Сайка.., не адрываючыся ад шклянкі, выжлуктаў самагон і энергічна паставіў яе на стол. Самагонная поскудзь борзда разлілася па яго жылах, стукнула ў галаву.* Колас. *[Шыдлоўскі:] Гэта віно ды піва стукне ў галаву.., неяк лягчэй тады крыху, як у мазгах закруціць і крыўду сваю*

*чалавек на міг забывае.* Козел. *Патржанецкі пачаў хадзіць па пакоі. Гарэлка ўжо стукнула ў галаву, узняўся настрой.* Чарнышэвіч.

**ЯК (`ЯК БЫ, НІБ`Ы) АБУХ`ОМ ПА ГАЛАВ`Е СТ`УКНУЦЬ (УД`АРЫЦЬ)** *каго. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр., абстр. прадмета ці ў няпэўна-асаб. знач. Нечакана ўразіць, ашаламіць. *Яхіма як бы па галаве абухом стукнула. Вось дзе яна, сапраўдная бяда, сапраўднае ліха.* Колас. *«Як жа я ў цябе застануся, калі ў мяне жонка ёсць і свой такі самы, як у цябе...» Як абухом па галаве стукнулі Нюрку. — То чаго ж ты хадзіў сюды, кручаны! Марш, каб і духу твайго больш не чула!* Арабей. *Хвастаў яго венікам Мыкола, а ён думаў пра халоднае піва, пра добрую чарку, пра песні застольныя. Толькі выйшлі — нібы абухом па галаве: вайна!* Місько. *Як абухом па галаве ўдарыла мяне гэтая тэлеграма.* «Полымя».

*СТУПА* ● **В`ЕДЗЬМІНА СТ`УПА.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм.* Чорная віхура з тарфянога пылу. *Мы бездапаможна стаялі сярод поля, а навакол нас уздымаліся з зямлі і вірылі лейкападобныя смерчы, ці, як іх называюць у Беларусі, ведзьміны ступы.* Дуброўскі.

*СТУПАЙ* ● **ЯК ДУРАНЬ СА СТУПАЙ.** Гл. дурань.

*СТУПАЛА* ● **НАГА НЕ СТУПАЛА** *каго, чыя куды, дзе.* Гл. нага.

*СТУПАЦЬ* ● **НА ПАР`ОГ НЕ СТУП`АЦЬ** *<да каго>. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не прыходзіць, не заходзіць, не наведваць каго-н. **Сін.**: не казаць носа *куды*; не паказваць вачэй *куды*; не патыкаць носа *куды*. *Пра Міцеву жонку ўжо і забыліся: час усё сцірае. А дачка — віна і боль: нібыта ёсць недзе і няма яе. Пятнаццаць гадоў на парог не ступала. Нават твар яе Міця забыў.* А.Жук. *Не крыўдуй на мяне, Кузьма, але я думаю так: не ў цябе ўдаўся ён, душа ў яго драбнаватая. З буржуямі, нябось, на з'ездзе цалаваўся, а да брата і на парог не ступіў...* Дайнека.

*СТУПЕ* ● **ТАЎЧЫ ВАДУ Ў СТУПЕ.** Гл. таўчы.

*СТУПІЦЬ* ● **<І> КР`ОКУ СТУП`ІЦЬ** <u>*не можа, не сумее, нельга*</u> і пад. *Зак. Кампанент вык. Разм. Часцей неадабр.* Самастойна, свабодна, бескантрольна дзейнічаць без каго-н. *Таня Васілёк і Ганька хутка так прывыкаюць да самое Мані і яе загадаў, што не могуць без яе ступіць і кроку.* Васілевіч. *Што я значу ў вачах Прыдатных? Галяк, дэмакрат і толькі. А без бацькоў Зося не сумее і кроку ступіць.* Гартны. *Дык вось, Міхаіл, паставім цяпер такі парадак: ніводзін без майго ці твайго дазволу не павінен ступіць кроку.* Самуйлёнак.

**НАГА НЕ СТУПІЦЬ** *каго, чыя куды.* Гл. нага.

**НЕ ДАВАЦЬ КРОКУ СТУПІЦЬ** *каму.* Гл. даваць

**НЕ СТУП`ІЦЬ КР`ОКУ.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. *без каго, без чаго.* Не магчы бескантрольна, самастойна, свабодна зрабіць што-н. *Нядзелька, свята — людзі вольны, свая ахвота, свой дазвол, на рынак едуць, хто ў касцёл, як гэты Людвік багамольны, а хто пагульвае так дома; а ты, вось, совайся, як бома, ды бойся ліха і падкусу — не ступіш, кроку без прымусу.* Колас. *Па палажэнню я мушу з гэтай драбязой зварочвацца да начальніка аддзела шляху... І выдумала ж галоўка нечая! Гэтак і кроку не ступіш, каб таты з мамай не папытацца...* Шынклер.

**2**. *без чаго.* Не магчы абысціся без чаго-н., каб зрабіць што-н. **Сін**.: як без рук *без каго, без чаго. Каб хоць была свая якая майстэрня ці кузня. Няма нават самых патрэбных рэчаў, няма нават дзе паставіць тачыла, умацаваць шрубстак, нельга змайстраваць добры горн, без якога не ступіш кроку.* Дамашэвіч. *Не марнуй часу. Цяпер без навукі, без ведаў і кроку не ступіш, не тое што доследы з оптыкай ставіць.* Шышовіч.

**3**. *без каго, без чаго.* Не магчы абысціся без чыёй-н. дапамогі, падтрымкі і пад. *[Будзік:] У іх жа, брат, у паноў, усё заграНічнае: сукно на кунтуш і з пяром капялюш. Самі яны без заграніцы кроку не ступяць.* Колас.

*СТУПУ* ● **ЯК ДУРАНЬ СТУПУ.** Гл. дурань.

*СТЫНЕ* ● **КРОЎ У ЖЫЛАХ СТЫНЕ** *ў каго.* Гл. кроў.

*СТЫРНА* ● **БЕЗ РУЛЯ (СТЫРНА) І БЕЗ ВЕТРАЗЯЎ.** Гл. руля.

*СУД* ● <u>Пакуль</u> **С`УД ДЫ СПР`АВА.** *У знач. дзеясл. вык. Разм.* (Пакуль) што-н. адбываецца, робіцца і пад. **Сін**.: *пакуль* тое ды сёе. — *Вось пакуль суд ды справа — наце вячэрайце! — прамовіла Марта.* Гартны. *Але што тут доўга гаварыць: пакуль суд ды справа, як гаворыцца, бяру вас пад сваё камандаванне.* Лынькоў. *Крэдыт— то, канешне, непагана, пакуль суд ды справа, пакуль на ногі станеш!* Мележ.

*СУДДЗЯ* ● **БОГ** *каму* **СУДДЗЯ.** Гл. бог.

*СУДЗІЎ* ● **БОГ НЕ СУДЗІЎ** *каму.* Гл. бог.

*СУК* ● **СЕКЧЫ СУК, НА ЯКІМ СЯДЗІШ.** Гл. секчы.

**ЯК У СУК УЛЯПІЎ.** Гл. уляпіў.

*СУКІН* ● **СУКІН КОТ.** Гл. кот.

**СУКІН СЫН.** Гл. сын.

*СУКНО* ● **КЛАСЦІ ПАД СУКНО** *што.* Гл. класці.

**КЛАСЦІСЯ ПАД СУКНО.** Гл. класціся.

*СУКНОМ* ● **ЛЯЖАЦЬ ПАД СУКНОМ.** Гл. ляжаць.

**ПАД СУКН`ОМ** <u>*трымаць, знаходзіцца*</u> і пад. *Акал. Разм. Неадабр.* Без прасоўвання, без руху наперад. *А тым часам бывае, што*

*рукапіс гэткага рамана валяецца ў выдавецтве цэлы год «пад сукном».* Чорны. *І праўда, няхай бы ўжо такую змрочную паперчыну прафсаюзныя лідэры пад сукном дзе трымалі, давалі ёй ход толькі пры неабходнасці.* Масарэнка. *Занепакоеныя медыкі напісалі дакладную запіску ў адпаведныя гарадскія інстанцыі... Але яна апынулася пад сукном.* «Звязда».

*СУКОЎ* ● **САДЗІЦЦА НА СЕМ СУКОЎ.** Гл. садзіцца.

*СУМЛЕННЕ* ● **НЕ ЗА СТРАХ, А ЗА СУМЛЕННЕ.** Гл. страх.

**СУМЛ`ЕННЕ ЗАГАВАР`ЫЛА** *ў каго. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Каму-н. стала сорамна. *[Фёдар Мікалаевіч:] Слухаю. Так, я... Дакладную? Чытаў... Цікавае сачыненне... Што, сумленне загаварыла?.. А раней вы гэтага не бачылі?..* Крапіва. *Мішка пазіраў з воза і ў вус не дзьмуў. Але ці сумленне загаварыла, ці надакучылі Мішку ўсе гэтыя нецікавыя мяшкі.., кінуў ён свае аперацыі па выгрузцы.* Лынькоў.

*СУМЛЕННЕМ* ● **ЗДЗЕЛКА З СУМЛЕННЕМ.** Гл. здзелка.

**З Ч`ЫСТЫМ СУМЛ`ЕННЕМ.** *Акал. Функц. не зам.* Не адчуваючы маральнай пакуты і дакору (рабіць што-н.). **Сін**.: з чыстай душой. *[Дабрыян:] Калі ўжо на маю долю выпадзе ўзначальваць гэта судзілішча, дык я б хацеў рабіць гэта з чыстым сумленнем. Як асоба не зацікаўленая.* Крапіва. *Зусім трохі заставалася [Агееву] працы — на дзень, не болей, і ён з чыстым сумленнем мог палічыць, што перавярнуў увесь кар'ер і не знайшоў нічога.* Быкаў. *З хаты [Лейба] выбраўся назнарок вельмі рана з надзеяй, што ў майстэрні нікога не будзе, тады б ён мог ад усяго адмовіцца з чыстым сумленнем.* Чарнышэвіч.

*СУМЛЕННІ* ● **НА СУМЛ`ЕННІ** *чыім, каго, у каго. Часцей дап. Функц. не зам.* На кім-н. Пра маральную адказнасць каго-н. за што-н. *[Скробат:] Кроў гэтых людзей будзе на тваім сумленні.* Крапіва. *[Ткачук:] Мароз быў нашай болькай. На сумленні ў абодвух. У мяне і ў яго [Міклашэвіча].* Быкаў.

*СУМЛЕННЯ* ● **ДЛЯ АЧЫСТКІ СУМЛЕННЯ.** Гл. ачысткі.

*СУНУЦЬ* ● **СУНУЦЬ НОСА НЕ Ў СВАЁ ПРОСА.** Гл. соваць.

**СУНУЦЬ ПАЛКІ Ў КОЛА** *каму, чаго.* Гл. ставіць.

**СУНУЦЬ СВАЕ ТРЫ ГРОШЫ.** Гл. устаўляць.

**СУНУЦЬ <СВОЙ> НОС** *куды, у што.* Гл. соваць.

*СУПРАЦІЎЛЕННЯ* ● **ІСЦІ ПА ЛІНІІ НАЙМЕНШАГА СУПРАЦІЎЛЕННЯ.** Гл. ісці.

*СУПРАЦЬ* ● **ГЛАДЗІЦЬ СУПРАЦЬ ШЭРСЦІ** *каго.* Гл. гладзіць.

**ЗА І СУПРАЦЬ.** Гл. за.

**ЗУХ СУПРАЦЬ МУХ.** Гл. зух.

**ПЕРЦІ СУПРАЦЬ РАЖНА.** Гл. перці.
**ПЛЫСЦІ СУПРАЦЬ ЦЯЧЭННЯ.** Гл. плысці.
**ПЛЯВАЦЬ СУПРАЦЬ ВЕТРУ.** Гл. пляваць.
**СУПРАЦЬ ЛІХА НА ЎЗГОРАЧКУ.** Гл. ліха.
**СУПРАЦЬ ШЭРСЦІ.** Гл. шэрсці.

*СУПРОЦЬ* ● **ЗУХ СУПРОЦЬ МУХ.** Гл. зух.

*СУРДЗІНКУ* ● **ПАД СУРДЗ`ІНКУ.** *Акал. Функц. не зам.* **1**. Ціха, прыглушана. *Вецер носіць лёгкія сняжынкі — гэта восень ходзіць белай павай, напявае штосьці пад сурдзінку на лугах някошанай атаве...* Звонак. *Каб не прыцягваць увагі пасажыраў, я іграў.. ціха, пад сурдзінку.* Рамановіч.

**2**. Тайком, цішком, употай. **Сін**.: пад шумок; ціхай сапай. *Журналіст Сайрус Суцьцбергер прыўрочыў да знамянальнай гадавіны нарыс пад назвай «Падзенне арлоў», дзе праводзіўся пад сурдзінку тэзіс аб тым, што вось калі б не гэты праслаўуты Грышка Распуцін, дык «арлы», магчыма б, і не палі.* Вярцінскі. *У іншых школах мо і лепей, а ў нашай музыка занядбана: Юльчын тата прыглушыў яе, пад сурдзінку грошы калыміць і ў вус не дзьме.* Левановіч.

*СУР'ЁЗЕ* ● **НА П`ОЎНЫМ СУР'`ЁЗЕ** *гаварыць, аб'яўляць* і пад. *Акал. Разм.* Зусім сур'ёзна. **Сін**.: не на жарты (у 2 знач.); не на смех. *Дзядзька з Зуброй, бывала, на поўным сур'ёзе апавядаў, як ноччу, калі ён таксама пасвіў коней, перад ім раптам расступілася зямля і ў яме з агнём ён убачыў вялізную гурбу золата.* Карпюк. *Коля ўжо сварыўся са сваім начальнікам на поўным сур'ёзе.* А.Жук. *Больш смяяліся ад Валодзевых расказаў, якія ён выдаваў на поўным сур'ёзе, без ценю ўсмешкі, толькі злёгку чмыхаючы, калі даходзіла да самай солі.* Радкевіч. – *Было гэта даўно, – на поўным сур'ёзе пачынае Лявон. – Надумаў я жаніцца...* Пашкоў.

*СУСВЕТНАЯ* ● **СУСВЕТНАЯ ТУГА.** Гл. туга.

*СУСТРАКАЦЦА* ● **СУСТРАК`АЦЦА (СЫХ`ОДЗІЦЦА) НА В`УЗКАЙ ДАР`ОЖЦЫ (СЦ`ЕЖЦЫ)** *з кім. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Уступаць у непрымірымыя супярэчнасці з кім-н., узаемна варагаваць. **СУСТРЭЦЦА (СЫСЦІСЯ) НА ВУЗКАЙ ДАРОЖЦЫ (СЦЕЖЦЫ)** *з кім. Зак. Гад печаны, супраць сваіх пайшоў. Ну нічога, мы з ім сустрэнемся на вузкай сцежцы.* Гаўрылкін. *[Раман:] Я з ім яшчэ сыдуся на вузкай дарожцы!* Макаёнак. *Ну, Цэзар, хутка мы з табой сыдземся на вузкай дарожцы! Да Вацака прыйшло падмацаванне!..* Шашкоў.

*СУСТРЭЦЦА* ● **СУСТРЭЦЦА НА ВУЗКАЙ ДАРОЖЦЫ** *з кім. Зак.* да **СУСТРАКАЦЦА НА ВУЗКАЙ ДАРОЖЦЫ** *з кім.*

*СУСТРЭЧНЫ* ● **К`ОЖНЫ СУСТР`ЭЧНЫ.** *Мн. не ўжыв. Часцей дап. Функц. не зам.* Любы, без разбору чалавек. **Сін**.: і жук і жаба; кожны сабака; пастухова ганна; першы-лепшы (у 1 знач.); першы сустрэчны; стрэчны <і> папярэчны (у 1 знач.). *Расказваць мараку, як і што здарылася, не хацелася. Не будзеш жа кожнаму сустрэчнаму гаварыць пра ўсё.* Хомчанка. *Нярэдка ў жыцці наглядаецца, што двудушнік, пустазвон кожнага сустрэчнага надзяляе такімі ж рысамі характару, якімі валодае ён сам.* Семашкевіч.

**П`ЕРШЫ СУСТР`ЭЧНЫ (СТР`ЭЧНЫ).** *Часцей адз. Дап. і дзейн. Разм.* Любы чалавек, які толькі трапіцца. **Сін**.: і жук і жаба; кожны сабака; кожны сустрэчны; першы-лепшы (у 1 знач.); пастухова ганна; стрэчны <і> папярэчны (у 1 знач.). *Павінна быць больш строгая канспірацыя. Нельга давяраць першаму сустрэчнаму.* Новікаў. *Зблудзіш, саб'ешся з дарогі — не бяда: спыніш першага сустрэчнага, спытаеш, дзе ты, як куды выйсці — той не адмовіць, раскажа.* Сачанка. *Пасля ён [Стафанковіч] запытаў у першага стрэчнага, колькі часу, і здзівіўся: — Так рана?* Чорны. — *Але хіба можна мяняць яго на першага стрэчнага і так хутка?.. — больш да сябе, чым да сястры, звярнулася Люба.* Васілевіч.

*СУТНАСЦІ* ● **ПА С`УТНАСЦІ.** *У знач. пабочн. сл. Функц. не зам.* Калі разглядаць аснову справы; у сапраўднасці. **Сін**.: уласна кажучы. *Жыхары высыпалі на двор, абступілі Ружэ, засыпалі пытаннямі. Па сутнасці, гэта быў мітынг.* Шамякін. *З таго часу Пеця стаў дзейнічаць, па сутнасці, як партызан.* Пестрак.

*СУХАРЫ* ● **СУШЫЦЬ СУХАРЫ.** Гл. сушыць.

*СУХАЯ* ● **АСІНА <СУХАЯ> ПЛАЧА** *па кім.* Гл. асіна.

*СУХІ* ● **НА СУХІ ЛЕС.** Гл. лес.

*СУХІМ* ● **ВЫХОДЗІЦЬ СУХІМ З ВАДЫ.** Гл. выходзіць.

**ТРЫМАЦЬ ПОРАХ СУХІМ.** Гл. трымаць.

*СУХОГА* ● **СУХОГА РУБЦА НЯМА** *на кім.* Гл. няма.

*СУХОЙ* ● **СУХОЙ НІТКІ НЯМА** *на кім.* Гл. няма.

*СУХОТЫ* ● **ХВАРЭЦЬ НА КІШАНЬКОВЫЯ СУХОТЫ.** Гл. хварэць.

*СУЧКА* ● **БЕЗ СУЧКА І <БЕЗ> ЗАДЗІРЫНКІ.** *Разм.* **1**. *Акал.* Вельмі лёгка, добра, без перашкод і ўскладненняў (ісці, выходзіць і пад.). Пра справу, падзеі і інш. **Сін**.: як па масле. *Пусцілі [устаноўку] у рабочы ход, як кажуць, без сучка і задзірынкі, нібы яна толькі таго і чакала...* Макарэвіч. *Дзяжурства на лодачнай станцыі прайшло без сучка і задзірынкі...* Аношкін.

**2**. *У знач. вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Вельмі добры, без заган і недахопаў. **Сін**.: адным словам[1]; будзь-

будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); кругом сто дваццаць; на славу (у 2 знач.); на ўсе рукі; на ўсе сто (у 3 знач.); на яць (у 2 знач.); па крайняй меры (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога; першай гільдыі (у 1 знач.); першай рукі (у 1 знач.); першы клас, першы сорт; разлюлі-маліна (у 1 знач.); рэдкай рукі; слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.); як яечка. *[Шугаеў:] Я разумею Русаковіча: ён хоча, каб машына была без сучка, без задзірынкі.* Крапіва.

**НІ СУЧК`А НІ ЗАДЗ`ІРЫНКІ.** *Акал. Разм.* Ніякіх недахопаў (не знаходзіць, няма, не было і пад.). *Павел Іванавіч правяраў надзейнасць таго ці іншага вузла ў рабоце на розных рэжымах і, калі не знаходзіў, як кажуць, ні сучка ні задзірынкі, дазваляў упакоўваць.* Макарэвіч. *[Паэт] увесь аддаўся клопату адшліфаваць, «абкатаць» верш так, каб не было ў ім, як кажуць, ні сучка ні задзірынкі.* «Маладосць».

*СУЧКІ* ● **З-ПАД СУЧКІ ЯЙЦО ЎКРАДЗЕ.** Гл. украдзе

*СУШЫЦЬ* ● **СУШ`ЫЦЬ ГАЛАВ`У (МАЗГ`І).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Напружана думаць, задумвацца, стараючыся рашыць што-н. складанае. **Сін**.: круціць мазгі *каму* (у 3 знач.); ламаць <сабе> галаву *над чым. Можа, ёй [Ганне] нічога і не трэба. Ёй, можа, і таго даволі, што ёсць. І тое — свята ёй... А наогул — няма чаго сушыць галаву.* Мележ. *Дзед Акім.. кажа, што калі не зробяць да вясны калгаса, то паможа ёй заараць ды засадзіць наш лапік зямлі і скасіць сена. І няхай бабка гэтым галаву не сушыць.* Каліна. *Салвэсіха не раз ужо сушыла мазгі, як прыдбаць якога покрыву на дах.* Рыбак.

2. Знясільваць сябе разумовай працай. *Не любіла Клава доўга сядзець над кніжкамі, «сушыць галаву».* Мележ. *На парады сяброўак канчаць інстытут яна [Раіса] неяк асабліва, па-свойму, крывіла губы і з пагардай гаварыла: «Вельмі мне патрэбна цяпер сушыць мазгі. Усё ў мяне ёсць, ва ўсім дастатак...»* Пальчэўскі. *Калі часам і браў якую [кнігу] у рукі, тады не Фама, дык Рыгор пасмейваліся: — Кінь мазгі сушыць, там бабы сохнуць па табе. Хадзем на вечар.* Жуковіч.

**СУШ`ЫЦЬ З`УБЫ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Весела смяяцца, рагатаць. **Сін**.: выскаляць зубы; зубы грэць на сонцы; прадаваць зубы; скаліць зубы (у 1 знач.). *А яна, Маша, і ў атрадзе выстаўляла сябе, і ў дарозе іграла нейкую*

*дзіўную ролю, нават не адну, многа роляў, і перад Сцяпанам... залішне сушыць зубы. Што ёй смешна?* Шамякін. *Збяруцца на вячоркі дзеўкі, прыйдуць хлопцы і пачнуць — зубы ўвесь час сушаць, а ён [Іван] хоць бы рот раскрыў, хоць бы слова прамовіў.* Казько.

**СУШ`ЫЦЬ СУХАР`Ы.** *Незак. Часцей у 1-й ас. адз. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Чакаць суровага пакарання. *Ты ўжо гатова сухары мне сушыць. Смешна, далібог. Чаго нам з табой баяцца цяпер? Нас цяпер да самай смерці ніхто не мае права ўпікнуць.* Шамякін. *[Моцкін:] Дай мне сваю машыну на паўгадзіны, Разумееш, пазнюся на сход у калгас «Партызан». Што? Ах, чорт!.. Камера лопнула. Ну, Моцкін, сушы сухары!* Макаёнак. *Разглядаць тваю справу будзем — ты ж не выканаў задання. І адказваць за гэта табе давядзецца. Так што — сушы сухары. Самае малое — строгую вымову адхопіш.* Сіпакоў.

**СУШ`ЫЦЬ С`ЭРЦА** *чыё, каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна трывожыць, хваляваць, мучыць каго-н. **Сін**.: вымотваць жылы (у 2 знач.); вымотваць кішкі *каму* (у 1 знач.); гнаіць душу *чыю, каму*; кроіць сэрца *каму, чыё*; разануць <нажом> па сэрцы *каго*; раздзіраць душу *каму, чыю*; рваць душу *чыю, каму*; рэзаць па жывому (у 2 знач.); рэзаць сэрца *каму*; цягнуць душу з *каго*; цягнуць за душу *каго. [Навум:] А калі ты ўж[о] маеш быць маёю суджанаю, д[ы]к скажы ды не сушы сэрца вайтоўскага.* Дунін-Марцінкевіч. *І сёння Янка Нямкевіч адпіхнуў яго [Уладака], пабег за Зосяю — за тою, хто і яму сушыць сэрца.* Далідовіч.

*СХАВАЛАСЯ* ● **ДУША Ў ПЯТКІ <СХАВАЛАСЯ>** *у каго.* Гл. душа.

*СХАВАЦЦА* ● **СХАВАЦЦА ЗА ПЛЕЧЫ** *чые, каго. Зак. да* **ХАВАЦЦА ЗА ПЛЕЧЫ** *чые, каго.*

**СХАВАЦЦА ЗА ЧУЖЫЯ СПІНЫ.** *Зак. да* **ХАВАЦЦА ЗА ЧУЖЫЯ СПІНЫ.**

*СХАВАЦЬ* ● **СХАВАЦЬ КАНЦЫ <У ВАДУ>.** *Зак. да* **ХАВАЦЬ КАНЦЫ <У ВАДУ>.**

*СХАДЗІЦЬ* ● **СХАДЗ`ІЦЬ <ДА ГАЛАВ`Ы, НАЗ`АД> ПА Р`ОЗУМ.** *Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адмовіцца ад ранейшых намераў, адумацца. *Альжа.. бяжыць у сенцы і лае Іллюка за непаслушэнства, — А што — от і схадзіў назад па розум: вярнуўся! Я табе не казала?* Калюга. *І я чую, што ён ужо каецца, дурань, плача. Схамянуўшыся, што нарабіў бяды, а цяпер схадзіў па розум, ды позна — іրве на сабе валасы.* Адамчык.

*СХАПІЦЦА* ● **СХАПІЦЦА АБЕДЗВЮМА РУКАМІ** *за што. Зак. да* **ХАПАЦЦА АБЕДЗВЮМА РУКАМІ** *за што.*

*СХАПІЦЬ* ● **НЕ СХАПІЦЬ ВОКАМ.** Гл. акінуць.

**СХАПІЦЬ БОГА ЗА БАРАДУ.** *Зак. да* **ХАПАЦЬ БОГА ЗА БАРАДУ.**

**СХАПІЦЬ ЗА ГОРЛА** *каго. Зак. да* **ХАПАЦЬ ЗА ГОРЛА** *каго.*

**СХАПІЦЬ ЗА ДУШУ.** *Зак. да* **ХАПАЦЬ ЗА ДУШУ.**

**СХАПІЦЬ ЗА РУКУ** *каго. Зак. да* **ХАПАЦЬ ЗА РУКУ** *каго.*

*СХВАРЭЦЬ* ● **СХВАРЭЦЬ ДУШОЙ** *за каго, за што, па кім, па чым. Зак. да* **ХВАРЭЦЬ ДУШОЙ** *за каго, за што, па кім, па чым.*

**СХВАРЭЦЬ СЭРЦАМ** *за каго, за што, па кім, па чым. Зак. да* **ХВАРЭЦЬ СЭРЦАМ** *за каго, за што, па кім, па чым.*

*СХІЛЕ* ● **НА СХ`ІЛЕ ДЗ`ЁН (ЖЫЦЦ`Я).** *Часцей акал. Функц. не зам.* У глыбокай старасці. **Сін**.: на старасці год. *Вось і цяпер, ужо на схіле дзён, душу ўспамін кранае нечакана, калі раптоўна рве кароткі сон забыты голас мілай і каханай.* Звонак. *У аповесці А.Жука трагедыя яшчэ больш абвастраецца з-за таго, што ў цэнтры ўвагі — характар жанчыны старога веку, чалавека на схіле дзён.* «ЛіМ». *Усе, хто ведаў яго — пісьменніка, педагога, грамадзяніна, — добра памятаюць, як і на схіле жыцця ён [Я.Майр] заставаўся чуйным да сваіх юных сяброў, быў шчаслівы, што жыве ў дзівосным свеце вясёлай казкі, у свеце маленства і юнацтва.* Вітка.

*СХІЛІЦЬ* ● **СХІЛІЦЬ ГАЛАВУ.** *Зак. да* **СХІЛЯЦЬ ГАЛАВУ.**

*СХІЛЯЦЬ* ● **СХІЛ`ЯЦЬ ГАЛАВ`У.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. **1**. *перад кім.* Прызнаваць сябе пераможаным, пакарацца, паддавацца каму-н. **Сін**.: <і> лапкі ўгору; складваць зброю (у 1 знач.); станавіцца на калені *перад кім. Ніколі, мой народзе, ты не схіляў галавы перад тым, хто калі-небудзь імкнуўся заняволіць цябе.* Купала. **СХІЛІЦЬ ГАЛАВУ** *перад кім. Зак. Не папрасіў памілавання ў прэзідэнта Казімір Петрусевіч. Не схіліў ён галаву і перад фашысцкімі акупантамі.* «Полымя».

2. *перад кім, перад чым.* Пакланяцца каму-, чаму-н., адносіцца з глыбокай пашанай да каго-, чаго-н. **Сін**.: глядзець знізу ўверх *на каго, на што*; здымаць шапку *перад кім.* **Ант**.: глядзець зверху ўніз *на каго, на што. [Ян Серафімавіч:] Я асабіста схіляю галаву перад талентам прафесара Аўсова.* Э.Валасевіч. *Многа іх, настаўнікаў, будзе потым на жыццёвым шляху Ганны Сяргееўны, але перад імем Ірыны Фядотаўны яна заўсёды схіляе галаву.* «Настаўн. газ.» **СХІЛІЦЬ ГАЛАВУ** *перад кім. Зак. Я жанчыну любіў і заўсёды гатовы быў схіліць галаву перад жаночым лёсам, наканаваным ёй самой прыродай.* Васілевіч.

*СХОДЗІЦЬ* ● **НЕ СХ`ОДЗІЦЬ (НЕ СЫХ`ОДЗІЦЬ) З В`УСНАЎ** *чыіх, каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн., выраж. наз. *слова, імя* і пад. Пастаянна вымаўляцца. **Сін**.: зрывацца з вуснаў *чыіх, каго*; зрывацца з языка *чыйго, у каго*; лезці на язык *каму*; не сходзіць з

языка *чыйго, у каго*; прыходзіць на язык *каму* (у 1 знач.); узбрысці на язык *каму. Два словы «зямля» і «воля» не сыходзілі з людскіх вуснаў.* Шкраба. *Суседзі сказалі, што Галіна маці вар'яцее ад роспачы, з яе вуснаў не сходзіць імя дачкі.* Няхай. *Ды і як раскажаш пра жыццё, тым больш у пісьме? Сяргей разумеў — гэта тое самае, што двума словамі адказаць на ходкае неразумнае пытанне, якое не сходзіць з вуснаў кожнага сустрэчнага-папярэчнага — «як жывеш?»* Семашкевіч.

**НЕ СХ`ОДЗІЦЬ (НЕ СЫХ`ОДЗІЦЬ) З ЯЗЫК`А (З ЯЗЫК`ОЎ)** *чыйго, у каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Пастаянна вымаўляцца. **Сін**.: зрывацца з вуснаў *чыіх, каго*; зрывацца з языка *чыйго, у каго*; лезці на язык *каму*; не сходзіць з вуснаў *чыіх, каго*; прыходзіць на язык *каму* (у 1 знач.); узбрысці на язык *каму. Раеўская любіла пагаварыць з Нінай і часта шукала, каб дзе ўбачыць яе. У апошні час з языка яе не сходзіў Швыдрык.* Лобан. *— Можа, урачыха там чаго нарабіла... — Яна ў цябе з языка не сходзіць! — крыкнула ўжо з-за перагародкі Сцепаніда, уклаўшыся спаць.* Пестрак. *Мундзір узнёслага Пшэборы не сходзіў доўга з языкоў...* Колас. *Новая чутка ўзнялася аднекуль, і пра Добры-вецара забылі, а з языкоў не сыходзіла ўжо імя Гарбача.* Мурашка. *Толькі і гаворка, што пра спектакль. Не сходзіць гэта слова з языка.* Калюга.

**СХОДЗІЦЬ З ПОЛЯ.** Гл. сыходзіць.

**СХОДЗІЦЬ З РОЗУМУ.** Гл. сыходзіць.

**СХОДЗІЦЬ НА ПШЫК.** Гл. сыходзіць.

**СХОДЗІЦЬ СА СЦЭНЫ.** Гл. сыходзіць.

*СХОПЛІВАЦЬ* ● **СХОПЛІВАЦЬ НА ЛЯТУ** *што.* Гл. хапаць.

*СЦЕЖКА* ● **СЦ`ЕЖКА (-І, СЦЯЖ`ЫНКА, -І) ЗАРАСЛ`А (ЗАРАСТ`АЕ, ЗАРАСЦ`Е)** *да каго, да чаго, куды. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Хто-н. ці што-н. зусім забыты. *[Саравітан:] Змітрок, глядзі, каб зарасла сцежка да Анэты.* Гарбацэвіч. *Тады Мялешка казаў прамову, абяцаў, што да камісаравай магілы ніколі не зарасце сцежка.* Асіпенка. *Не зарастаюць сцяжынкі ў вёску Мікалаеўшчыну, якая на фоне цудоўнай прыроды выглядае добраўпарадкаваным сялом, з шырокімі вуліцамі і прасторнымі дамамі.* «Настаўн. газ.» *Не зарастае сцежка ў Дом-музей.* «ЛіМ».

*СЦЕЖКУ* ● **ПРАКЛАДАЦЬ СЦЕЖКУ** *каму, чаму, куды.* Гл. пракладаць.

*СЦЕЖЦЫ* ● **ІСЦІ ПА КРЫВОЙ СЦЕЖЦЫ.** Гл. ісці.

**ПАЙСЦІ ПА КРЫВОЙ СЦЕЖЦЫ.** Гл. пайсці.

**СУСТРАКАЦЦА НА ВУЗКАЙ СЦЕЖЦЫ** з *кім.* Гл. сустракацца.

*СЦЕЛЕ* • **М`ЯККА СЦ`ЕЛЕ <ДЫ М`УЛКА (Ж`ОРСТКА) СП`АЦЬ>.** *Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знешне ветлівы, далікатны, а спадцішка робіць ці можа зрабіць каму-н. шкоду, непрыемнасці. — *Дзякую, — сказаў дзед Піліп і стаў садзіцца з Косцікам на воз, падумаўшы: «Нешта ты мякка сцелеш...»* Гурскі. *Бач ты, як мякка сцелеш... Бач, як ты ўжо запеў!..* Місько. *А як пад'ехаў! Як мякка слаў, ледзьве нават каньяку не выпілі. Вось табе і суайчыннік!* Быкаў. *Іншы тры кошыкі нагаворыць, і бачна, што няшчыра. Мякка сцеле ды мулка спаць.* Саламаха. *Ах, дурніца, ах, якая ж ты яшчэ дурніца! Верыць, што ёй нейкі прайдзісвет языком меніць? Усе яны добрыя. Мякка сцелюць ды мулка спаць...* Сачанка. *А мы Іванова як аблупленага ведаем. Балбатун ён. Мякка сцеле ды спаць жорстка.* Асіпенка. *Сцёпку ўспамінаецца сягонняшняя размова з Маняй, перад вачыма паўстае і яна сама, поўная, знешне, для чужога чалавека, мяккая і ласкавая. Мякка сцеле ды жорстка спаць.* Гігевіч.

*СЦЕНАХ* • **У ЧАТЫР`ОХ СЦ`ЕНАХ** <u>*сядзень, жыць*</u> і пад. *Разм.* **1**. Не маючы ні з кім зносін, у адзіноце. *Юрац успомніў пра Ціманава: майляў, тут згуртавалася нешта накшталт халасцяцкай кампаніі, а сусед, халасцяк, будзе сумаваць у чатырох сценах. Можа, і яго запрасіць?* Гроднеў. *Штодня не будзеш сядзець у чатырох сценах, як асуджаны, хадзіць сцежкамі, а не вуліцай.* Алешка. *А можа, — сама не здзіўлюся (ну што ў свеце нязменна?) — і я з сям'ёю ўжывуся ў чатырох сценах.* Вярба.

**2**. Не выходзячы з дому, з памяшкання. — *А я дзень пры дні сяджу ў чатырох сценах і свету белага не бачу, — звычайна скардзіўся Пцічкін.* Новікаў. *Хто ж у гэткія гады выседзіць летам у чатырох сценах?* Супрунчук. *У горадзе сядзіш у чатырох сценах, нібы звярок у норцы. А выйдзеш на вуліцу — будынкі, будынкі...* Ялоўчык.

*СЦЕНКА* • **СЦ`ЕНКА НА СЦ`ЕНКУ**. *Акал. Разм.* Адзін на аднаго групамі (хадзіць, сыходзіцца ў кулачны бой). **Сін.**: грудзі на грудзі. *І ў гэтай цясніне пачалося сапраўднае лядовае пабоішча. Кулачны рускі бой. Сценка на сценку.* Казько. *Дарослыя самі сценка на сценку пайшлі: аляксееўцы – тыя, што жылі за гарой, – на тых, чые дамы стаялі ў цэнтры сяла.* Гніламёдаў.

*СЦЕНКІ* • **ПРЫПІРАЦЬ ДА СЦЕНКІ** *каго.* Гл. прыпіраць.

**СТАВІЦЬ ДА СЦЕНКІ** *каго.* Гл. ставіць.

**ЯК ГАРОХ АД СЦЕНКІ.** Гл. гарох.

*СЦЕНКУ* • **СЦЕНКА НА СЦЕНКУ.** Гл. сценка.

**ЯК ГАРОХ АБ СЦЕНКУ** *каму, для каго.* Гл. гарох.

*СЦЕНЫ* ● **ХОЦЬ СЦЕНЫ Ў ХАЦЕ АБКЛЕЙВАЙ** *чаго.* Гл. абклейвай.

*СЦЕРЦІ* ● **СЦЕРЦІ З ТВАРУ ЗЯМЛІ.** *Зак. да* **СЦІРАЦЬ З ТВАРУ ЗЯМЛІ.**

**СЦ`ЕРЦІ Ў ПАРАШ`ОК** *каго. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Жорстка расправіцца з кім-н., знішчыць каго-н. **Сін**.: грызці горла *каму*; зрабіць блін *з каго*; мяшаць з зямлёй (у 2 знач.); накладваць рукі *на каго*; сціраць з твару зямлі (у 1 знач.). *Усемагутны Зашчаміла.. сатрэ ў парашок гэтых Грушкаў, Кляновічаў, ён яшчэ сваё дакажа.* Пестрак. — *Гэта [фашызм] — машына! Або ты будзеш служыць ёй, або яна сатрэ цябе ў парашок! — задышліва прасіпеў Сотнікаў.* Быкаў. *Баюся я гэтага старога. Калі што не па ім — у парашок цябе можа сцерці. I не здрыганецца...* Савіцкі.

*СЦІРАЦЬ* ● **СЦІР`АЦЬ (СЦЕРЦІ) З ТВ`АРУ ЗЯМЛ`І.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. **1**. *каго.* Жорстка праспраўляцца з кім-н., знішчаць каго-н. **Сін**.: грызці горла *каму*; зрабіць блін *з каго*; мяшаць з зямлёй (у 2 знач.); накладваць рукі *на каго*; сцерці ў парашок *каго.* **СЦЕРЦІ З ТВАРУ ЗЯМЛІ** *каго. Зак. Суцёпка яшчэ больш грозна блісне вачыма і зробіць намеры сцерці яе [Аленку] з твару зямлі, пасля чаго імчыцца далей.* Колас. *Такі, сыне, закон у нас: не пераможам мы, сатруць нас з твару зямлі, змяшаюць з пылам, з крывёю...* Лынькоў. *Мы абкружаны. Іх воля вырашыць, калі менавіта нас задушыць, сцерці з твару зямлі...* Самуйлёнак.

**2**. *што.* Поўнасцю знішчаць, разбураць дашчэнту. **Сін**.: вырываць з коранем *што*; зраўняць з зямлёй *што*; мяшаць з зямлёй (у 1 знач.); не пакідаць каменя на камені (у 1 знач.). *Бушмар нагадваў штосьці бязлітаснае і цяжкае, што ўсё крышыць дашчэнту пад нагамі сваімі, сцірае ўсё з твару зямлі.* Чорны. **СЦЕРЦІ З ТВАРУ ЗЯМЛІ** *што. Зак. Збіраліся, панове, сцерці Ленінград з твару зямлі, церабілі ў смелых планах дарогу аж на Урал...* Навуменка.

**3**. *што.* Поўнасцю і рашуча выкараняць тое, што перашкаджае. **СЦЕРЦІ З ТВАРУ ЗЯМЛІ** *каго. Зак. [Рачкоўскі] зрабіў размашысты жэст, які выразней за словы паказваў, як ён сцёр з твару зямлі нават апошні след сваіх грахоў.* Зарэцкі.

*СЦІСКАЕЦЦА* ● **СЭРЦА СЦІСКАЕЦЦА** *ў каго <ад чаго>.* Гл. сэрца.

*СЦІСКАЦЬ* ● **СЦІСК`АЦЬ У КУЛ`АК** *каго. Незак. Разм.* Ужыв пры дзейн. са знач. асобы. Поўнасцю падпарадкоўваць сабе, сваёй волі. **Сін**.: браць верх (у 1 знач.); браць у <свае> рукі (у 1 знач.); віць

вяроўкі *з каго*; выкручваць сырыцу з *каго*; ездзіць вярхом *на кім*; ездзіць на карку *чыім*; запрагаць у аглоблі *каго*; надзяваць аброць *на каго, на што*; надзяваць хамут *на каго*; надзяваць ярмо на шыю *каму, каго*; падмінаць пад сябе *што, каго*; прыбіраць да рук (у 1 знач.); садзіцца на галаву *каму*; садзіцца на карак *чый, каго* (у 1 знач.); убіраць у <свае> рукі (у 1 знач.). **СЦІСНУЦЬ У КУЛАК** *каго. Зак. Так, вас ужо загадзя цешыць, што Берагі мяне сціснуць у кулак. Цешцеся!.. Мабыць, дзеля гэтай пацехі знарок і ўпіхаеце мяне ў тое пекла...* Гартны.

*СЦІСКАЮЦЦА* ● **КУЛАКІ СЦІСКАЮЦЦА** *ў каго, чые.* Гл. кулакі.

*СЦІСНУЦЬ* ● **СЦІСНУЦЬ У КУЛАК** *каго. Зак. да* **СЦІСКАЦЬ У КУЛАК** *каго.*

*СЦЫЛАЙ* ● **МІЖ (ПАМ`ІЖ) СЦ`ЫЛАЙ І ХАР`ЫБДАЙ.** *Акал. Кніжн.* У цяжкім становішчы, калі непрыемнасці, небяспека пагражаюць з двух бакоў (выбіраць, быць і пад.). **Сін.**: між двух агнёў; між молатам і кавадлам. *Глыбы думак. Праху глыбы — за сівою даўнінай паміж Сцылай і Харыбдай.* Янішчыц. *Рэжысёр.. павінен адшукаць сваю сцяжынку паміж Сцылай і Харыбдай.* «ЛіМ».

*СЦЭНЫ* ● **СЫХОДЗІЦЬ СА СЦЭНЫ.** Гл. сыходзіць.

**СЫХОД СА СЦЭНЫ.** Гл. сыход.

*СЦЯГ* ● **ВЫСОКА ЎЗНІМАЦЬ СЦЯГ** *чаго, чый.* Гл. узнімаць.

**СЦ`ЯГ (ФЛ`АГ) У Р`УКІ** *каму. У безас. ужыв. Разм.* У каго-н. ёсць усе падставы, магчымасці зрабіць што-н., выявіць свае здольнасці, якасці і пад. Ужыв. і як заахвочвальны, пабуджальны, часам іранічны заклік зрабіць што-н. **Сін.**: <і> кнігі ў рукі *каму*; <і, усе> карты ў рукі *каму. Што ні нарада, што ні Усебеларускі сход, што ні сесія парламента – праграмы, законы, рашэнні, пастановы, розныя «ўказяўкі». Працуйце, хлопцы, сцяг вам у рукі!* «ЛіМ». *Цяпер малады калектыў робіць новы спектакль – «Флаг вам у рукі і вялікае дзякуй»* «Звязда». *Весці ён [Аляксандр Андрэевіч] будзе кадравыя пытанні, рэгіянальную палітыку, магчыма, навуку і, вядома ж, сельскую гаспадарку, дзе яму, так бы мовіць, і сцяг у рукі.* Бураўкін. «*Ты чаго, – кажа, – гад такі, не прымаеш меры?!*» *А брыгадзір зірнуў на яго мутным вокам ды адказаў:* «*Што ж, сцяг табе ў рукі*» . «Крыніца».

**ТРЫМАЦЬ ВЫСОКА СЦЯГ** *чаго, каго, чый.* Гл. трымаць.

*СЦЯГАМ* ● **ПАД СЦ`ЯГАМ** *чаго. Акал. Функц. не зам.* Прыкрываючы чым-н. сапраўдныя намеры. *Пад сцягам крытыкі і самакрытыкі ўзняў свой голас дэмагог і паклёпнік.* «Звязда». *Бэндэ пад сцягам спрошчанага разумення барацьбы за чысціню пралетарскай літаратуры настойліва дыскрэдытаваў нашага вялікага песняра*

«ЛІМ».

*СЦЯЖКАМІ* ● **АБКЛАСЦІ ЧЫРВОНЫМІ СЦЯЖКАМІ** *каго.* Гл. абкласці.

*СЦЯКАЦЬ* ● **СЦЯК`АЦЬ КР`ОЎЮ (КРЫВ`ЁЙ).** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. сукупнасці асоб. Несці вялікія ахвяры ў вайне. *Ужо трэці месяц люты вораг, сцякаючы крывёй, рвецца да Волгі, да Сталінграда...* Крапіва. *Фашысцкая браніраваная звяруга хоць сцякала крывёю, але здратавала гусеніцамі амаль усе пазіцыі на тым участку, дзе абараняўся батальён Дзюбкі.* Кулакоўскі.

*СЦЯНА* ● **КІТ`АЙСКАЯ СЦЯН`А.** *Мн. не ўжыв. Часцей дзейн. ці дап. Кніжн.* **1**. Неадольная перашкода; поўная ізаляванасць ад каго-, чаго-н. *Добра паказана [у аповесці А.Мальдзіса «Восень пасярод вясны»] таксама, што ў гістарычным плане ніякай «кітайскай сцяны» не было паміж беларускімі і літоўскімі вёскамі ў межах адных і тых самых паветаў і валасцей Беларусі і Літвы.* «ЛіМ».

**2**. *чаго.* Сур'ёзная перашкода ў чым-н. *Ідэя наша — наша сіла... Каб толькі.. не расла неразумення наўсцяж кітайская сцяна.* Лужанін.

**СЦЯН`А Ў СЦЯН`У** <u>*жыць (пражыць)*</u> і пад. *Акал. Разм.* Зусім побач, у непасрэднай блізкасці, па суседству. *Дзед Андрэй і дзед Халімон — суседзі... Пражылі яны, можна сказаць, сцяна ў сцяну ўсё сваё жыццё. А кожнаму з іх цяпер па восем дзесяткаў адгрукала.* Ваданосаў.

<u>*Маўчаць*</u> **ЯК СЦЯН`А.** *Акал. Разм.* Зацята, упарта. **Сін**.: як вады ў рот набраўшы; як магіла; як рыба. *[Разбойнік] маўчаў затое як сцяна... Не мог ці не хацеў казаць...* Крапіва. *Прафесар яшчэ доўга гаварыў і пераконваў. А Шчогалеў маўчаў як сцяна.* Дамашэвіч.

*СЦЯНЕ* ● **ПА СЦЯНЕ РАЗМАЗВАЦЬ** *каго.* Гл. размазваць.

*СЦЯНОЙ* ● **АДГАРОДЖВАЦЦА КІТАЙСКАЙ СЦЯНОЙ** *ад каго, ад чаго.* Гл. адгароджвацца.

**СТАНАВІЦЦА СЦЯНОЙ.** Гл. станавіцца.

**СТАЯЦЬ СЦЯНОЙ.** Гл. стаяць.

<u>*Быць, жыць*</u> і пад. **ЯК (ШТО) ЗА КАМ`ЕННАЙ (МУРАВ`АНАЙ) СЦЯН`ОЙ.** *Акал. Разм.* Пад надзейнай аховай каго-н., спакойна. **Сін**.: як у бога за дзвярыма; як у бога за пазухай (у 2 знач.); як у бога за плячыма. *Не бойся, Сымонка!.. За мной — як за каменнай сцяной...* Зарэцкі. *Другія ўхвальвалі: «Малайчына Таська, ведала, каго выбраць, за такім мужам будзе што за каменнай сцяной, а ўсе тыя — свістуны».* Шамякін. *Валянціна пастаянна спадзявалася, што за мной яна — як за каменнай сцяной, што я — вечны рухавік яе таленту.* Іпатава. *Запомніце, прозвішча яго*

*Антонаў... За ім як за мураванай сцяною: трохі балбоча панямецку, нюх на небяспеку, бы ў добрага ганчака, пратачыцца ў любую шчыліну.* Грахоўскі. *Зноў прыгледзеліся калгаснікі да свайго старшыні. «Угу! За ім хоць і не як за мураванай сцяной, але ўсё ж надзейна».* Праскураў.

*СЦЯНУ* ● **ІЛБОМ СЦЯНУ ПРАБІВАЦЬ.** Гл. прабіваць.

**ЛЕЗЦІ НА СЦЯНУ.** Гл. лезці.

**ПАДПІРАЦЬ СЦЯНУ.** Гл. падпіраць.

**ПАЛЕЗЦІ НА СЦЯНУ.** Гл. палезці.

**СЦЯНА Ў СЦЯНУ.** Гл. сцяна.

**ХОЦЬ ГАЛАВОЙ АБ СЦЯНУ БІСЯ.** Гл. біся.

**ЯК ГАРОХ АБ СЦЯНУ** *каму, для каго.* Гл. гарох.

*Спадзявацца, апірацца* і пад. **ЯК НА КАМ`ЕННУЮ СЦЯН`У (ГАР`У).** *Акал. Разм.* Поўнасцю, цалкам (спадзявацца і пад. на каго-н.). *Покі што ў мяне ёсць тры асобы, сяляне, і адзін з іх чалавек вельмі сур'ёзны. На яго можна палажыцца як на каменную сцяну.* Колас. *Васіль.. пераносіўся барзджэй да Міколы і Марты і апіраўся на іх як на каменную гару.* Гартны. *Спадзяюся, Іліко, на вас як на каменную сцяну.* Гурскі.

*СЦЯНЫ* ● **ПРЫПІРАЦЬ ДА СЦЯНЫ** *каго.* Гл. прыпіраць.

**СТАВІЦЬ ДА СЦЯНЫ** *каго.* Гл. ставіць.

**ЯК ГАРОХ АД СЦЯНЫ.** Гл. гарох.

*СЦЯЎШЫ* ● **СЦ`ЯЎШЫ З`УБЫ.** *Акал. Разм.* Перасільваючы сябе, стрымліваючы свае пачуцці (рабіць што-н.). **Сін**.: цераз сілу. *Чалавек Мікалай хоць і пісьменны, але не надта рашучы... От ён, сцяўшы зубы, і цягнуў, як вол, гэтае ярмо.* Чорны. *Андрэй.. круціў доўга, сцяўшы зубы, аж пакуль зноў не стала горача ў пальцы.* Пташнікаў.

*СЦЯЦЬ* ● **НЕ СЦЯЦЬ ВОКАМ.** Гл. акінуць.

**ЯК ВОКАМ СЦЯЦЬ.** Гл. кінуць.

*СШЫТА* ● **СШЫТА БЕЛЫМІ НІТКАМІ.** Гл. шыта.

*СЫГРАЦЬ* ● **СЫГРАЦЬ НА РУКУ** *каму. Зак. да* **ІГРАЦЬ НА РУКУ** *каму.*

**СЫГР`АЦЬ П`ЕРШУЮ СКР`ЫПКУ** *ў чым. Зак. Функц. не зам. Часцей адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Выканаць, адыграць галоўную ролю ў чым-н. **Сін.:** задаць тон <*каму, чаму, у чым*>; зрабіць пагоду <*у чым, дзе*>. *Ва ўсёй гэтай гісторыі з мастом іменна Коля сыграў першую скрыпку.* Быкаў. *І тут [на сяўбе яравых] механізатары павінны, як кажуць, сыграць першую скрыпку.* Шымук.

**СЫГРАЦЬ РОЛЮ.** *Зак. да* **ІГРАЦЬ РОЛЮ.**

*СЫН* ● **БЛ`УДНЫ С`ЫН.** *Адз. і мн. Часцей у знач. вык. ці зваротка. Разм. Неадабр., іран.* Легкадумны, свавольны чалавек, які раскаяўся ў сваіх памылках. *Ну, пляменнічак, ну, блудны сын! Дзе ж цябе нячыстая ганяла?* Карамазаў. — *Бацюхны, свентыя пакутнікі! — крычаў Дубатоўк. — З'явіўся-такі, з'явіўся блудны сын. За стол яго, за стол.* Караткевіч. *Няўжо і яго не абміне гэта горкая чаша, няўжо і ён хоць калі ды вымушаны будзе стаць блудным сынам, пра якога некалі спявалі ў ягонай вёсцы на кірмашах.* Гігевіч.

**С`УКІН С`ЫН.** *Часцей у адз. Часцей у ролі зваротка. Праст. Груб.* Ужыв. як лаянкавы выраз. Нягоднік. **Сін**.: сукін кот. *«Сукін сын, — падумаў Вэня Шпулькевіч, — ужо загаварвае, хоча на сані сесці».* Чорны. *Хочаш, сукін сын, каб я згінуў за цябе ў астрозе?!* Баранавых. — *І ты гэтага сукінага сына вучыш грамаце?! Для чаго ж гэта робіцца такая ласка? — Для таго, каб «гэтага сукінага сына» не крыўдзілі сотні сукіных сыноў.* Колас. *Нарвегія. Высокіх гораў сінь і ветразі рыбацкія ў фіёрдах... А мне баліць, што нейкі сукін сын за долары прадаў народ свой горды.* Панчанка.

*СЫНОК* ● **М`АМЧЫН (М`АМІН) СЫН`ОК (СЫН`ОЧАК).** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм. Іран.* Распешчаны, збалаваны, ні да чаго не прыстасаваны хлопчык, малады чалавек. **Ант**.: матчына дачушка. — *Што ж, песці, гадуй, мамчынага сынка. Мужчыну трэба гадаваць па-мужчынску, строга, — гаварыў Міхал.* Арабей. *Іншыя, відаць, паверылі, што іменна ён, юнак з інтэлігентнай сям'і, «мамчын сынок», «кніжнік», як яго называў той жа Кідала, мог стаць паражэнцам.* Шамякін. *Ёсць тут у нас адзін смаркуль. Заўтра я табе пакажу. От такое сабе трапло, мамін сыночак.* Брыль.

*СЫНОЧАК* ● **МАМЧЫН СЫНОЧАК.** Гл. сынок.

*СЫПАНУЦЬ* ● **СЫПАН`УЦЬ С`ОЛЬ НА СВ`ЕЖУЮ (ЖЫВ`УЮ) Р`АНУ (-Ы).** *Зак. Аднакр. да* сыпаць соль на свежую рану. *Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Расхваляваць каго-н., раптоўна дапячы каму-н. напамінкамі пра што-н. балючае. *«Май на ўвазе... Твае наскокі на Марыну не прыбліжаюць да цябе сына...» Сыпанула солі на свежыя раны. Дарэчы, не ўпершыню.* Шамякін. *І вось у той пакутлівы час Чубар нібыта ўшыўся ў сабачую скуру і кожны раз не мінаў сыпануць солі на жывую рану – папікаў разам з іншымі Зазыбу за «блізарукасць».* Чыгрынаў.

*СЫПАЦЬ* ● **С`ЫПАЦЬ Б`ІСЕР (П`ЕРЛЫ) П`ЕРАД СВ`ІННЯМІ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дарэмна гаварыць пра што-н. ці даказваць што-н. таму, хто не здольны або не хоча

зразумець гэта. *Я ведаў — яны [местачковыя бароны] ненавідзяць новае. Навошта перад свіннямі сыпаць перлы? І ўсё ж я ўстаў і абрушыўся словам на гэту прыбраную зграю памерлых...* Караткевіч. *[Цэзарына:] Наш тата... Наш тата... [Камедыянт:] Не трэба, Цэзарынка... сыпаць бісер...* Асташонак.

**С`ЫПАЦЬ (ПАСЫП`АЦЬ) С`ОЛЬ НА <СВ`ЕЖУЮ, ЖЫВ`УЮ> Р`АНУ (-Ы).** *Незак. Функ. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Хваляваць, непакоіць каго-н. напамінкамі пра штосьці непрыемнае, балючае. *Чаму настроіў ліру на гумар і сатыру? Нашто на раны сыплеш соль?* Грахоўскі. *А я пагаджаюся з шаноўным педагогам… Сыпаць зноў соль на раны? І так хопіць, людзі занадта ўсяго пераЖылі.* Лужанін. *Дзяўчына спагадліва глядзела на мяне, але нічога не пытала, мусіць, баючыся сыпаць соль на свежыя раны.* Сабаленка. *[Валя:] А яна такі і праўда крыху на бочку падобна. [Валодзя:] Сціхні, не пасыпай солі на раны.* Крапіва. – *Ото дурніца! Ды пакуль ты зойдзеш на тое Урэчча, то за дарогу і следу не застанецца ад твае пухліны! – Ніна сама накінулася на Ганьку. І, як ні дзіўна, Ганька здалася… Каб не пасыпаць соль на рану, яна не глядзелася больш у люстэрка.* Васілевіч.

*СЫПЛЕЦЦА* ● **МАННА З НЕБА СЫПЛЕЦЦА** *каму.* Гл. манна.

**МАННА НЯБЕСНАЯ СЫПЛЕЦЦА** *каму.* Гл. манна.

**ПАРАХНЯ СЫПЛЕЦЦА** *з каго.* Гл. парахня.

**ПОРАХ СЫПЛЕЦЦА** *з каго.* Гл. порах.

**ПЯСОК СЫПЛЕЦЦА** *з каго.* Гл. пясок.

*СЫПЛЮЦЦА* ● **ІСКРЫ З ВАЧЭЙ СЫПЛЮЦЦА** *ў каго.* Гл. іскры.

**ШЫШКІ СЫПЛЮЦЦА** *на каго.* Гл. шышкі.

*СЫР* ● **С`ЫР-Б`ОР.** *Мн. не ўжыв. Часцей дап. Разм.* Шум, перапалох, неразбярыха. **Сін**.: вавілонскае стоўпатварэнне; мамаева пабоішча (у 2 знач.); садом і гамора; страсці-мардасці; шурум-бурум. **Ант**.: ціш ды гладзь. — *Што, паход аказаўся ўдалым? — спытаўся Васіль Пятровіч, думаючы, як паведаміць жонцы пра новы сыр-бор і лішне не хваляваць яе — цяжка было гаварыць ёй пра свае няўдачы.* Карпаў. *Хто іх, маладых, разбярэ, з-за аднаго позірку могуць такі сыр-бор развесці, а з-за слова — тым болей...* Гігевіч. *Ні артыкула, ні нарыса, ні фотаздымка штотыднёвік, вядомая справа, Л.Луцкевічу не прысвячаў. Не друкаваў ён і ніякага яго выказвання. Адкуль сыр-бор?* «ЛіМ».

**С`ЫР-Б`ОР РАЗГАР`ЭЎСЯ (РАЗГАР`АЕЦЦА, ЗАГАР`ЭЎСЯ, ГАР`ЫЦЬ)** *з-за каго, з-за чаго, праз каго, з чаго. У безас. ужыв. Разм.* Падняўся шум, перапалох, распачалася справа. **Сін**.: ліха гарыць *з каго, праз каго*; свет гарыць *з каго, праз каго, з-за каго* (у 1 знач.).

*Сыр-бор разгарэўся з-за вядомага ў школе-інтэрнаце добрай і дрэннай славай выхаванца Максіма.* «Настаўн. газ.» *Маўчалі чамусьці і тыя, з-за каго разгарэўся сыр-бор: хлопец пазіраў у акно, жанчына ўпарта глядзела перад сабою.* Дамашэвіч. *[Галубовіч:] Хачу падзякаваць за сумленныя паказанні, якія дапамаглі высветліць, з чаго сыр-бор загарэўся.* Крапіва. *Мужчыны з цікавасцю паглядалі на Андрэя і Данілу, зусім не звяртаючы ўвагі на Сымона, праз якога і загарэўся сыр-бор.* Чарнышэвіч. *Яшчэ б! З-за такога заўсёды сыр-бор разгараецца...* «Звязда». *Аўтарка нібыта нават знарок забаўляецца недагаворкамі, настолькі баіцца быць дакладнай і зразумелай, што мне, нарэшце, няясна, з-за чаго гарыць сыр-бор — чаму героі пакахалі адно аднаго, чаму разышліся...* Брыль.

**ЯК СЫР У МАСЛЕ КУПАЦЦА.** Гл. купацца.

*СЫРАСЦЬ* ● **РАЗВОДЗІЦЬ СЫРАСЦЬ.** Гл. разводзіць.

*СЫРОЙ* ● **ЛЯЖАЦЬ У <СЫРОЙ> ЗЯМЛІ.** Гл. ляжаць.

**СПАЦЬ У СЫРОЙ ЗЯМЛІ.** Гл. спаць.

*СЫРОЮ* ● **АЖАНІЦЦА З СЫРОЮ ЗЯМЛЁЙ.** Гл. ажаніцца.

*СЫРЫ* ● **НІ СЫР`Ы НІ П`ЕЧАНЫ**. *Вык. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Такі, што цяжка сказаць, які ён, у якім стане і пад. **Сін.**: з сярэдзінкі на палавінку (у 1 знач.); не бог ведае які; ні богу свечка ні чорту качарга; ні два ні паўтара (у 1 знач.); ні рыба ні мяса; ні тое ні сёе (у 1 знач.); пасаліўшы можна есці; сюды-туды (у 3 знач.); сярэдзінка на палавінку; сярэдняй рукі; так сабе (у 3 знач.); чорт не чорт і два не выходзіць. *Хто я цяпер? Ні сыры ні печаны, як кажуць. Бяда па бядзе як па нітачцы ідзе. Пасля войска паўгода пачуваў сябе някепска, а зараз задышка пачалася, надоечы нават кроў горлам ішла.* Я.Галубовіч.

*СЫРЫЦУ* ● **ВЫКРУЧВАЦЬ СЫРЫЦУ** *з каго.* Гл. выкручваць.

*СЫСЦІ* ● **НЕ СЫСЦ`І МН`Е З Г`ЭТАГА М`ЕСЦА.** *Выкл. Праст.* Клятвеннае запэўненне ў чым-н. **Сін.**: адсохні мне язык; каб я з гэтага месца не сышоў; каб я <так> жыў; праваліцца мне на гэтым месцы. — *Праўда, праўда, не сысці мне з гэтага месца, — пачала бажыцца Адамайна.* Арабей. *Я яго больш і на парог не пушчу. Так вось атрымалася неяк бяздумна, але больш не будзе такога, не сысці мне з гэтага месца.* Капусцін.

**СЫСЦІ З ДАРОГІ.** *Зак. да* **СЫХОДЗІЦЬ З ДАРОГІ.**

**СЫСЦІ З КАТУШАК.** *Зак. да* **СЫХОДЗІЦЬ З КАТУШАК.**

**СЫСЦІ З КРУГОЎ.** *Зак. да* **СЫХОДЗІЦЬ З КРУГОЎ.**

**СЫСЦІ З ПАМЯЦІ** *каму. Зак. да* **СЫХОДЗІЦЬ З ПАМЯЦІ** *каму.*

**СЫСЦІ З ПОЛЯ.** *Зак. да* **СЫХОДЗІЦЬ З ПОЛЯ.**

**СЫСЦІ З РОЗУМУ.** *Зак. да* **СЫХОДЗІЦЬ З РОЗУМУ.**

**СЫСЦІ З РУК** *каму. Зак. да* **СЫХОДЗІЦЬ З РУК** *каму.*

**СЫСЦІ З РЭЕК.** *Зак. да* **СЫХОДЗІЦЬ З РЭЕК.**

**СЫСЦІ НА НІШТО.** *Зак. да* **СЫХОДЗІЦЬ НА НІШТО.**

**СЫСЦІ НА ПУСТЫ КАНЕЦ.** *Зак. да* **СЫХОДЗІЦЬ НА ПУСТЫ КАНЕЦ.**

**СЫСЦІ НА ПШЫК.** *Зак. да* **СЫХОДЗІЦЬ НА ПШЫК.**

**СЫСЦІ СА СЦЭНЫ.** *Зак. да* **СЫХОДЗІЦЬ СА СЦЭНЫ.**

**СЫСЦІ Ў МАГІЛУ.** Гл. пайсці.

**СЫСЦІ Ў ПЯСОК.** *Зак. да* **СЫХОДЗІЦЬ Ў ПЯСОК.** Гл. пайсці.

*СЫСЦІСЯ* ● **СЫСЦІСЯ НА ВУЗКАЙ ДАРОЖЦЫ** *з кім. Зак. да* **СЫХОДЗІЦЦА НА ВУЗКАЙ ДАРОЖЦЫ** *з кім.*

*СЫТЫ* ● **С`ЫТЫ (-АЯ, -ЫЯ) ПА Г`ОРЛА** *чым. Вык. Разм. Часта іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Задаволены звыш усякай меры, перанасычаны чым-н. *Народ на фронце прадае пушкі немцам за галеты! Ён сыты па горла вайной, і ніякімі рэвалюцыйнымі лозунгамі вы не падымеце яго зараз на вайну!* Губарэвіч. — *Вярніся, Ядвіська, га? — Не, Антон. Я табе патрэбна як прыдатак да свіней і курэй. Досыць з мяне, сытая па горла.* Шлег.

*СЫХОД* ● **СЫХ`ОД СА СЦ`ЭНЫ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Адыход ад былой дзейнасці. *Мацёры палітычны ігрок трапна выбраў момант для сыходу са сцэны: да ўлады тады ўпершыню прыйшлі правыя на чале з тым жа Вітасам.* Калеснік.

*СЫХОДЗІЦЦА* ● **СЫХОДЗІЦЦА НА ВУЗКАЙ ДАРОЖЦЫ** *з кім.* Гл. сустракацца.

*СЫХОДЗІЦЬ* ● **НЕ СЫХОДЗІЦЬ З ВУСНАЎ** *чыіх, каго.* Гл. сходзіць.

**НЕ СЫХОДЗІЦЬ З ЯЗЫКА** *чыйго, у каго.* Гл. сходзіць.

**СЫХ`ОДЗІЦЬ З ДАР`ОГІ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Перастаўшы перашкаджаць, даваць магчымасць дзейнічаць іншым. **Сін**.: саступаць з дарогі (у 2 знач.). **Ант**.: даваць падножку *каму*; заступаць дарогу *каму*; падстаўляць ножку *каму*; перабягаць дарогу *каму*; псаваць абедню *каму*; ставіць падножку *каму,* ставіць палкі ў кола *каму, чаго*; станавіцца на дарозе *чыёй, каму, чаму*; станавіцца папярок дарогі *каму, чыёй*; стаяць на дарозе *чыёй, у каго*; стаяць папярок дарогі *каму, каго.* — *Хіба вы памірыліся?.. — Я не люблю быць сапернікам. Або першы, або сыходзь з дарогі. Толькі так.* Дамашэвіч. **СЫСЦІ З ДАРОГІ.** *Зак. Значыць — канец. Астаецца адно — сысці з дарогі, не замінаць, не траціць сіл на бясплодную барацьбу.* Зарэцкі. *Пытанне.. вырашалася проста: не можа чалавек працаваць, не дазваляе*

*старасць, гады лепшыя прайшлі, — сыдзі з дарогі, уступі месца другому, маладому, больш здольнаму.* Шынклер.

**СЫХ`ОДЗІЦЬ З КАТ`УШАК.** *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Станавіцца псіхічна хворым. **Сін**.: з'язджаць з глузду (у 1 знач.); крануцца з розуму; сесці на каня; сыходзіць з кругоў; сыходзіць з поля (у 1 знач.); сыходзіць з розуму (у 1 знач.). **СЫСЦІ З КАТУШАК.** *Зак. Я рашыў з вамі ўсё ж павазіцца. І ведаеце чаму? Бо думаю, што вас яшчэ можна паправіць. Вы яшчэ не зусім, як кажуць, сышлі з катушак.* Дайліда.

**СЫХ`ОДЗІЦЬ З КРУГ`ОЎ.** *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Станавіцца псіхічна хворым. **Сін**.: з'язджаць з глузду (у 1 знач.); крануцца з розуму; сесці на каня; сыходзіць з катушак; сыходзіць з поля (у 1 знач.); сыходзіць з розуму (у 1 знач.). **СЫСЦІ З КРУГОЎ.** *Зак. Пусцілі [у бальніцу] на пяць мінут, халаты далі. Хай гляне на бацьку, знебылася зусім. Не есць нічога. Так і з кругоў сысці можна, у галаву ўзяўшы...* Пташнікаў. *Цяпер я, як ад ланцугоў, аслабаніў рукі і душу, а то ад клопатаў ля гэтай каровы свету не бачыў: і напасі яе, і на зіму накасі, і падаі, і малако спарадкуй — з кругоў можна сысці ад такіх дакук.* Вышынскі.

**СЫХ`ОДЗІЦЬ З П`АМЯЦІ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Зусім забывацца. **Сін**.: вылятаць з галавы <*у каго*>; выпадаць з галавы <*у каго*>; выходзіць з галавы <*у каго*>; у адно вуха ўлятае <а> у другое вылятае <*у каго, каму*>. **СЫСЦІ З ПАМЯЦІ** *каму. Зак. [Пранцісь:] Калі б кабыла ўцякла, то мяне тады ты дамоў завязеш, пане дабрудзею. [Агата:] А каб ты, тудэма-сюдэма, бокам ездзіў! Ідзі скарэй, паглядзі! Гэта ж і мне з памяці сышло.* Купала. *Зося.. раптам сышла з памяці, затуліўшыся вобразам Ганны.* Гартны. *Усё сышло людзям з памяці. Адна «Віцэнтава істужка» ў прыказках, у парараўнаннях засталася.* Калюга.

**СЫХ`ОДЗІЦЬ З Р`УК** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета, часта выраж. займ. *усё, гэта.* Праходзіць беспакарана, без непрыемнасцей; даравацца. Пра што-н. заганнае, недазволенае. *Не кідае [Мікалай] халасцяцкіх прывычак пасля жаніцьбы. Галоўнае, усё яму сыходзіць з рук.* Навуменка. *[Ягадка:] Мужчынам гэта заўсёды неяк лёгка сыходзіць з рук. Самае горшае — часовае паніжэнне па службе.* Матукоўскі. *Усё да пары да часу сыходзіла махінатару з рук.* «Звязда». **СЫСЦІ З РУК** *каму. Зак. А сёння — не падступішся ўжо [да Міхала]... [Убачыў], што ўсё сышло з рук. Начальнік.* Пташнікаў.

**СЫХ`ОДЗІЦЬ З Р`ЭЕК.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач.

асобы. **1**. Прыходзіць у замяшанне, разгубленасць; заблытвацца. **Сін**.: губляць галаву (у 1 знач.); збівацца з нагі; збівацца з панталыку (у 1 знач.); збівацца з толку (у 1 знач.); збівацца з тропу (у 1 знач.). **СЫСЦІ З РЭЕК.** *Зак. — Я сышоў з рэек, — пакрыўджана сцяў вусны Толя. — Не звяртай увагі. Чытай, калі ласка, далей.* Цяжкі.

**2**. *Неадабр.* Пачынаць весці заганны спосаб жыцця, дрэнна паводзіць сябе. **Сін**.: апускацца на дно; збівацца з дарогі; збівацца з панталыку (у 2 знач.); збівацца з толку (у 2 знач.); збівацца з тропу (у 2 знач.); ісці па крывой сцежцы; каціцца ўніз (у 1 знач.); пакаціцца (паляцець) пад адхон (у 1 знач.). **СЫСЦІ З РЭЕК.** *Зак.* **Сін**.: пайсці па крывой сцежцы. *Праўда, Рыгор гаварыў пра Баклана неахвотна і ўсяляк імкнуўся абысці гэтую прыкрую тэму. Часцей за ўсё адгаворваўся двума словамі — «сышоў з рэек». Аднак Кавалевіч і з тых вестак прыкладна ўяўляў сабе паводзіны Баклана, і яны выклікалі ў ім трывогу.* Мележ.

**СЫХ`ОДЗІЦЬ НА НІШТ`О.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. **1**. Зусім знікаць, прападаць. **Сін**.: сыходзіць на пшык. *Такім парадкам часта зніжалася, а часам сыходзіла на нішто мастацкая якасць некаторых першых нарысаў.* Чорны. **СЫСЦІ НА НІШТО.** *Зак. Той уплыў, хоць і быў плённы, але стаўся кароткачасовым. У маіх партызанскіх аповесцях ён сышоў на нішто, тут ужо я працаваў цалкам самастойна.* Быкаў.

**2**. Страчваць усякае значэнне. **Сін**.: зводзіцца на нішто. *Бельняговыя межы сыходзілі на нішто і калі ўпаміналіся, то хіба толькі ў старых песнях.* Лынькоў. *[Барцёўскі] цяпер выразна бачыў, што маёнтак сыходзіць на.. нішто, і пішу стараўся хутчэй выехаць у Варшаву на добрую службу.* Чорны. **СЫСЦІ НА НІШТО.** *Зак.*

**СЫХ`ОДЗІЦЬ НА ПУСТ`Ы КАН`ЕЦ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прападаць, даходзячы да маральнага падзення. **СЫСЦІ НА ПУСТЫ КАНЕЦ.** *Зак. Калісь тут Ціт жыў, і сыны ў яго былі, тры сыны. І ўсе, усе тры сышлі на пусты канец... Конан за нейкае зладзейства, а Мікалай — як дурань гатовы — усунуўся ў паліцыю і сцёрся недзе.* Янкоўскі. *[Вярэніч:] Страх падумаць, колькі ўжо сышло людзей на пусты канец, і ўсё з-за гарэлкі!* Петрашкевіч.

**СЫХ`ОДЗІЦЬ (СХ`ОДЗІЦЬ) З П`ОЛЯ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Станавіцца псіхічна хворым. **Сін**.: з'язджаць з глузду (у 1 знач.); крануцца з розуму; сесці на каня; сыходзіць з катушак; сыходзіць з кругоў; сыходзіць з розуму (у 1

знач.). *А я скажу вам, ягамосці: сыходзіць з поля маладзец; злавіў там з кніжак штось чагосьці, ну, і вар'юецца ў канец.* Купала. **СЫСЦІ З ПОЛЯ.** *Зак.*

**2**. *Неадабр.* Рабіць ці гаварыць глупства, не разумеючы безразважнасці сваіх учынкаў. **Сін**.: з быка ўпасці; з'язджаць з глузду (у 2 знач.). *[Пранцісь:] А васпан сваю панскую [песню] схавай свінням на снеданне. [Агата:] Кінь ты ўжо, тудэма-сюдэма, з поля сходзіць!* Купала. **СЫСЦІ З ПОЛЯ.** *Зак.*

**СЫХ`ОДЗІЦЬ (СХ`ОДЗІЦЬ) З Р`ОЗУМУ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Станавіцца псіхічна хворым. **Сін**.: з'язджаць з глузду (у 1 знач.); крануцца з розуму; сесці на каня; сыходзіць з катушак; сыходзіць з кругоў; сыходзіць з поля (у 1 знач.); *[Марыля:] Мой жа чалавек — каб вы, дзедка, бачылі: за апошні час як набраў сабе нечага ў галаву, дык проста з розуму сыходзіць. Учарнеў, асунуўся, азыз, толькі таўпехаецца з кута ў кут, як сам не свой.* Купала. **СЫСЦІ (ЗВІХНУЦЦА) З РОЗУМУ.** *Зак. Жонку ўзяў нейкі страх. Ні слова не гаворачы, яна пабегла дадому. Ёй здалося, што Андрэй звіхнуўся з розуму.* Колас.

**2**. *па кім.* Праяўляць моцнае захапленне кім-н., моцна кахаць каго-н. **Сін**.: аддаваць сэрца *каму*; не чуць душы *ў кім*. *— Што ты ўгледзела ў ім самавітага, што з розуму па ім сходзіш? Кінь, Агапка, — у добрым настроі часамі ўгаварвала яе маці.* Гартны. **СЫСЦІ (ЗВІХНУЦЦА) З РОЗУМУ.** *Зак.*

**СЫХ`ОДЗІЦЬ (СХ`ОДЗІЦЬ) НА ПШ`ЫК (НА БЗ`ІК).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Зусім знікаць, прападаць. **Сін**.: сыходзіць на нішто. *Гіляры ў свайго бацькі быў адзіны сын, а ў яго самога і зусім сыны не ўдаюцца — адны дочкі. На пшык сыходзіць, зводзіцца род.* Калюга. *Мужыкі хочуць, каб зямля належала ім, а такога паўстання нашы паны баяцца, як чорт ладану. Тут увесь іх патрыятызм імгненна сходзіць на бзік.* Арлоў. **СЫСЦІ НА ПШЫК (НА БЗІК).** *Зак.*

**СЫХ`ОДЗІЦЬ (СХ`ОДЗІЦЬ) СА СЦ`ЭНЫ.** *Незак. Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн., выраж. наз. *п'еса, драма* і пад. Пераставаць выконвацца. *Некаторыя з гэтых п'ес, у прыватнасці «Пяюць жаваранкі», «Канстанцін Заслонаў», заслужана карыстаюцца папулярнасцю ў народзе.., не сыходзяць са сцэны тэатраў.* Макаёнак. *Больш за паўстагоддзя са сцэны не сходзяць творы К.Крапівы.* «ЛіМ». **СЫСЦІ СА СЦЭНЫ.** *Зак. Старыя п'есы.. сышлі са сцэны, а іх месца займаюць паважныя рэчы, дзе можна ўбачыць жыццё без ніякіх прыкрас.* Палуян.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Траціць

сваё значэнне, пераставаць адыгрываць ранейшую ролю. **Сін**.: выходзіць у тыраж (у 2 знач.); зжываць сябе. **СЫСЦІ СА СЦЭНЫ.** *Зак. Абломкі эксплуататарскіх класаў.. вымушаны сысці са сцэны, каб назаўсёды адысці ў нябыт.* Крапіва.

**3**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адыходзіць ад якой-н. дзейнасці. *[Язва:] Выхаванец Мельпамены, драматург бы быў нядрэнны, ды сышоў цяпер са сцэны — убаяўся блох...* Крапіва. **СЫСЦІ СА СЦЭНЫ.** *Зак. — Не, проста так са сцэны не сыду! — ганарліва прамовіў услых Гаўрыла Гаўрылавіч.* Каршукоў.

**4**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пераставаць існаваць, паміраць. **Сін**.: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; адыходзіць (ісці) у лепшы свет; выпростваць ногі; ажаніцца з <сырой> зямлёй; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць <*каму*> (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.);канькі адкідваць; лажыцца ў магілу; на паповы сані збірацца; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); трапіць да абрама на піва. *Я таксама люблю жыццё, хачу жыць, але калі я прыгадаю, што мне ўжо 61 год, і калі я бачу, як навокал мяне сходзяць са сцэны жыцця мае равеснікі ці людзі трохі старэйшыя за мяне або крыху маладзейшыя, дык мімаволі думаю і аб сваім часе.* Колас. *Чалавек памірае ці сыходзіць са сцэны, а справы яго прадаўжаюць жыць.* Дамашэвіч. **СЫСЦІ СА СЦЭНЫ.** *Зак.*

**СЫХОДЗІЦЬ У ПЯСОК.** Гл. ісці.

*СЫХОДЗЯЦЦА* ● **КАНЦЫ З КАНЦАМІ НЕ СЫХОДЗЯЦЦА** *ў каго, дзе.* Гл. канцы.

*СЫШОЎ* ● **КАБ Я З ГЭТАГА МЕСЦА НЕ СЫШОЎ.** Гл. я.

*СЫШОЎСЯ* ● **СВЕТ КЛІНАМ СЫШОЎСЯ** *на кім, на чым.* Гл. свет.

*СЭНСЕ* ● **У С`ЭНСЕ** *якім, чаго. Акал. Функц. не зам.* У якіх-н. адносінах. — *Ніяк не дабяруся да гэтага магазіна. — У сэнсе? — Прапанаваць ім новы інтэр’ер.* Шамякін. — *Што будзем рабіць, Вера? — У якім сэнсе? — спытала маці. — У сэнсе нашага жыцця.* М.Капыловіч.

*СЭРЦА* ● **АБУЦЬ <СВАЁ> СЭРЦА Ў ЛАПЦІ.** Гл. абуць.

**АДДАВАЦЬ РУКУ І СЭРЦА** *каму.* Гл. аддаваць.

**АДДАВАЦЬ СЭРЦА** *каму.* Гл. аддаваць.

**АДКРЫВАЦЬ <СВАЁ> СЭРЦА** *каму, перад кім.* Гл. адкрываць.

**АДЛЯГЛО АД СЭРЦА** *ў каго.* Гл. адлягло.

**АДЛЯГЛО НА СЭРЦЫ** *ў каго.* Гл. адлягло.

**АД <УСЯГ`О, С`АМАГА> С`ЭРЦА.** *Акал. Функц. не зам.* З усёй шчырасцю, адкрытасцю. **Сін**.: ад <усёй> душы; ад чыстага сэрца; ад шчырага сэрца; з адкрытай душой; з глыбіні душы. *Хоць быў я яшчэ малы, але спачуваў рэвалюцыйным выступленням ад усяго сэрца.* Гарэцкі. У *многа разоў узнагароджана мая скромная, але ішоўшая ад самага сэрца праца.* Купала. *[У пісьмах] было безліч самых прыгожых слоў, нават вершы, чужыя, сапраўдныя, і свае, не вельмі зграбныя, але — ад сэрца.* Шамякін.

**АД Ч`ЫСТАГА С`ЭРЦА (ДУШ`Ы).** *Акал. Функц. не зам.* З усёй шчырасцю, непрытворна, зусім адкрыта, чыстасардэчна. **Сін**.: ад <усёй> душы; ад <усяго> сэрца; ад шчырага сэрца; з адкрытай душой; з глыбіні душы. — *Вы прымушаны былі так метка страляць ці рабілі гэта ад чыстага сэрца? — зласмешна запытаў паручык-карнілавец.* Колас. — *Скажы ад чыстага сэрца: ты Івана кахаеш? — адразу ж запытала Ніна.* Шахавец. *Ну, братка Алесь, даруй... Хацеў я ад чыстай душы чарку з табой выпіць...* Чарнышэвіч.

**АД ШЧ`ЫРАГА С`ЭРЦА (ДУШ`Ы).** *Акал. Функц. не зам.* З усёй шчырасцю, непасрэднасцю, адкрытасцю. **Сін**.: ад <усёй> душы; ад <усяго> сэрца; ад чыстага сэрца; з адкрытай душой; з глыбіні душы. *Што ты, што ты, Ніна! Ці ж магу хлусіць я. Я праўду кажу, праўду ад шчырага сэрца...* Галавач. *Усім, хто чытаў гэтыя мае запіскі, ад шчырага сэрца жадаю поспеху ў справах.* Карпюк. *Цяпер у Алеся часта з'яўлялася жаданне сустрэцца [з Калачыкам]. Пагутарыць ад шчырае душы, парадзіцца, прызнацца ва ўсім.* Чарнышэвіч.

**АД'ЯДА СЭРЦА.** Гл. ад'яда.

**АД'ЯДАЦЬ СЭРЦА** *каму.* Гл. ад'ядаць.

**БРАЦЬ <БЛІЗКА> ДА СЭРЦА** <*што*>. Гл. браць.

**БРАЦЬ ЗА СЭРЦА.** Гл. браць.

**ВЫКІДАЦЬ З СЭРЦА** *каго, што.* Гл. выкідаць.

**ВЫРЫВАЦЬ З СЭРЦА** *каго, што.* Гл. вырываць.

**ВЫЯДА СЭРЦА.** Гл. выяда.

**ВЫЯДАЦЬ СЭРЦА** *каму.* Гл. выядаць.

**ВЯЛ`ІКАГА С`ЭРЦА (ВЯЛ`ІКАЙ ДУШ`Ы).** *Часцей у знач. прэдык. азн. Функц. не зам. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Сардэчны, шчыры, гатовы дапамагчы.— *Бацька твой быў вялікага*

*сэрца чалавек, мужны, — працягваў Ярашэвіч...* Гурскі. *Нікіфаровіч дабрадушна ўсміхнуўся. — Нашы людзі вялікага сэрца, хлопча. Яны ўмеюць караць, умеюць і шкадаваць...* Броўка. *У асобе Кузьмы Чорнага і без таго нешматлікая на той час беларуская пісьменніцкая сям'я страціла аднаго са сваіх найбольш таленавітых прадстаўнікоў, чалавека вялікага сэрца, пісьменніка-патрыёта і гуманіста, выдатнага майстра слова.* Мушынскі. *Мы з ёю разам пэдінстытут канчалі. Вялікай душы чалавек.* Мяжэвіч.

**ВЯЛ`ІКАЕ С`ЭРЦА** *ў каго. Мн. не ўжыв. У безас. ужыв. Функц. не зам. Адабр.* Хто-н. здольны на моцнае і шчырае пачуццё. *Іван Сямёнавіч Андруш, я, здаецца, нешта пачынаю разумець. У вас вялікае сэрца, Іван Сямёнавіч...* Палтаран.

**ВЯРЭДЗІЦЬ СЭРЦА** *каму, чыё.* Гл. вярэдзіць.

**ГНАІЦЬ СЭРЦА** *каму, чыё.* Гл. гнаіць.

**ДА С`ЭРЦА** *каму. Вык. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Падабаецца. **Сін**.: да густу *каму*; да душы *каму,* да смаку *каму*; западаць у вока *каму* (у 2 знач.); па густу *каму*; пад густ *каму*; па душы *каму*; па нутры *каму*; па сэрцы *каму*; як маслам па душы *каму.* **Ант**.: не ў смак *каму. — А мне што з таго? Першыя ці апошнія?.. Былі б да сэрца... — Да сэрца! Старцам жыць, з перцам есці! Захацела!.. Ды ці Яўхім — не да сэрца?* Мележ. *Мне да сэрца ваша думка, як звязаць учора і заўтра эмацыянальна.* Лужанін.

**ЗАКРАДАЦЦА Ў СЭРЦА** *чыё, каго.* Гл. закрадацца.

**З ЗАМІРАННЕМ СЭРЦА.** Гл. заміраннем.

**КРАНАЦЬ СЭРЦА** *чыё, каго.* Гл. кранаць.

**КРОІЦЬ СЭРЦА** *каму, чыё.* Гл. кроіць.

**КРЫВЁЮ СЭРЦА.** Гл. крывёю.

**ЛЕДЗЯНІЦЬ СЭРЦА** *чыё, каго.* Гл. ледзяніць.

**МЕЦЬ СЭРЦА** *на каго.* Гл. мець.

**НА ДНЕ СЭРЦА.** Гл. дне.

**ПАКАРАЦЬ СЭРЦА** *каго, чыё.* Гл. пакараць.

**ПАКЛАЎШЫ РУКУ НА СЭРЦА.** Гл. паклаўшы.

**ПЕРАСТ`АЛА (ПЕРАСТ`АНЕ) БІЦЦА СЭРЦА** *каго. У безас. ужыв. Кніжн. Узнёсл.* Хто-н. памёр ці загінуў. **Сін.**: бог прыбраў *каго*; дух вон *з каго*; дух выйшаў *з каго, у каго*; душа вон *з каго* (у 1 знач.); магіла возьме *каго. І ў той дзень, калі перастала біцца сэрца паэта [Я.Купалы], на захопленай ворагам радзіме аддавалі зямлі цела яго маці.* Караткевіч. *Як сэрца біцца перастане Матулі нашай, нас не стане. І толькі застануцца здані ў напамін аб цёмным змане.* Барадулін. *5 лютага 2001 года ў далёкім Глен-Кове перастала біцца*

*сэрца вялікага Беларуса, вялікага Жыццялюба і вялікага Патрыёта [Масея Сяднёва].* Левановіч.

**ПРАПАНАВАЦЬ РУКУ І СЭРЦА** *каму.* Гл. прапанаваць.

**ПРАПАНОВА РУКІ І СЭРЦА.** Гл. прапанова.

**ПРЫПАСЦІ ДА СЭРЦА** <*каму*>. Гл. прыпасці.

**РАЗБІВАЦЬ СЭРЦА** *каму, чыё.* Гл. разбіваць.

**РАЗРЫВАЦЬ СЭРЦА** *чыё, каму.* Гл. рваць.

**РВАЦЬ СЭРЦА** *чыё, каму.* Гл. рваць.

**РЭЗАЦЬ СЭРЦА.** Гл. рэзаць.

**СКІДАЦЬ З СЭРЦА КАМЕНЬ.** Гл. скідаць.

**СКІДАЦЬ ПЫХУ З СЭРЦА.** Гл. скідаць.

**СКРЭБЦІ ЗА СЭРЦА** *каго.* Гл. скрэбці.

**СУШЫЦЬ СЭРЦА** *чыё, каму.* Гл. сушыць.

**С`ЭРЦА АБРЫВ`АЕЦЦА (АПАД`АЕ)** *у каго, чыё*; **С`ЭРЦА АБАРВ`АЛАСЯ (УП`АЛА, АП`АЛА)** *у каго, чыё. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. адчувае моцны страх, трывогу, раптоўна адчайваецца. **Сін**.: аслаблі гайкі *ў каго, чые* (у 1 знач.); валасы становяцца дыбам *у каго*; вочы на лоб лезуць *у каго* (у 2 знач.); душа ў пятках *у каго, чыя*; душа ў пяткі <схавалася> *у каго*; калені дрыжаць *у каго*; кроў ледзянее *ў каго*; кроў у жылах стыне *ў каго*; мароз па скуры <прабягае> *у каго, каго, чыёй*; мурашкі бегаюць па целе *ў каго, каго, чыім*; неба з аўчынку здаецца *каму*; паджылкі трасуцца *ў каго*; скура шэрхне *на кім, у каго*; сэрца ледзянее *ў каго*; у пяткі кальнула *каму, каго* (у 1 знач.); <усе> блохі падохлі *ў каго. Пагоршыўся агульны стан Веранікі... Сэрца абарвалася ў Чакана... Вераніка, гэтая цудоўная дзяўчынка, якую ён сваімі рукамі выцягнуў з магілы?* Радкевіч. *Людміліна сэрца абарвалася. Прадчуванне спраўдзілася. Іван Іванавіч гаварыў, а ў Людмілы ў грудзях халадзела, халадзела.* Арабей. *І вось, амаль што перад самым горадам, наляцелі мы на нямецкую заставу, і сэрца ў мяне апала...* Гарэцкі. *Нехта няўмела паскрэбаўся ў дзверы — і ў Лазовіка апала сэрца: канечне ж, гэта Кунцэвіч...* Блакіт. *Калі ён [Андрэй] пабачыў Ірыну ўпершыню пасля аперацыі — у яго ўпала сэрца.* Караткевіч.

**СЭРЦА БАЛІЦЬ** *чыё, у каго, каму.* Гл. душа.

<u>*Пакуль*</u> **СЭРЦА Б'ЕЦЦА (БУДЗЕ Б`ІЦЦА)** *каго. У безас. ужыв. Функц. не зам.* (Пакуль) хто-н. жывы, існуе. *Горад і краіна не паміраюць, пакуль б'ецца сэрца хаця аднаго іхняга сына ці дачкі.* Караткевіч. *Ды покі будзе сэрца біцца, яно не можа пагадзіцца ні з гэтым гвалтам, ні з бядою над нашай роднаю зямлёю.* Колас. *Не буду плакаць і прасіцца, я свой народ не здраджу век, бо покуль сэрца будзе*

*біцца, хачу я звацца – чалавек…* Кавыль.

**СЭРЦА ГАРЫЦЬ** *чыё, у каго.* Гл. душа.

**С`ЭРЦА `ЁКНУЛА** *ў каго. У безас. ужыв. Разм.* Каго-н. нечакана ахоплівае хваляванне, неспакой і пад. **Сін**.: галава баліць *чыя, у каго, каму пра што, аб чым, па кім, па чым*; галава гарыць *у каго*; душа баліць *чыя, у каго, каму* (у 2 знач.); душа гарыць *чыя, у каго*; душа не на месцы *ў каго*; душа ные *чыя, каму, у каго* (у 2 знач.); кошкі душу скрабуць *у каго, каму*; кошкі на душы скрабуць *у каго, чыёй,* нутро гарыць *чыё, у каго*; сэрца замірае *ў каго, чыё*; сэрца заходзіцца *ў каго*; сэрца як не выскачыць *у каго. Прыгожы і статны ён быў хлопец. У Раечкі першай ёкнула сэрца, калі яна ўбачыла яго.* Лобан. *Азірнулася [Марына], і сэрца ёкнула: у крапіву рабым матузом вільнуў востры хвост гадзючы.* Кудравец. *Ёкнула сэрца ў яе [Марылі] толькі тады, калі Ксяневіч, хмура зірнуўшы на яе, сказаў кудысьці ўбок: — Сама пакажаш, куды схавала, ці будзем шукаць?* Гіль.

**СЭРЦА ЗАБАЛ`ЕЛА** *ў каго па кім. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. пачаў моцна непакоіцца, перажываць за каго-н. *[Настаўнік] пашкадаваў унукаў старога: Толіка, Веру, Юру, Лёніка, якіх яму прыходзілася вучыць, гараваць з імі. Забалела сэрца па чацвёртакласніку Толіку, бедным, хваравітым хлопчыку…* Далідовіч.

**С`ЭРЦА ЗАМІР`АЕ (ЗАМІР`АЛА)** *у каго, чыё. У безас. ужыв. Разм.* Каго-н. нечакана ахоплівае хваляванне ці трывога, неспакой і пад. **Сін**.: галава баліць *чыя, у каго, каму пра што, аб чым, па кім, па чым*; галава гарыць *у каго*; душа баліць *чыя, у каго, каму* (у 2 знач.); душа гарыць *чыя, у каго*; душа не на месцы *ў каго*; душа ные *чыя, каму, у каго* (у 2 знач.); кошкі душу скрабуць *у каго, каму*; кошкі на душы скрабуць *у каго, чыёй*; нутро гарыць *чыё, у каго*; сэрца ёкнула *ў каго*; сэрца заходзіцца *ў каго*; сэрца як не выскачыць *у каго. З-за краю зямлі ўжо сунецца сіняя хмара, і вуха ловіць глухі далёкі рокат. Сэрца тады замірае ў трывозе.* Крапіва. *Замірае сэрца паляўнічае — футра ліса, што рудое золата!* Дзяргай. *Незаўважна для настаўніцы адкусвала [Ніна] агурок, і адна шчака ў яе трошкі прыпухала. І сэрца ад радасці замірала ў хлопчыка.* М.Капыловіч. *[Андрэй] насцярожыўся, чуйна прыслухаўся, адчуваючы міжволі, як замірае сэрца, ледзянее кроў.* Блакіт.

**СЭРЦА ЗАНЫЛА** *чыё, каго, у каго.* Гл. душа.

**С`ЭРЦА ЗАХ`ОДЗІЦЦА (ЗАХ`ОДЗІЛАСЯ, ЗАЙШЛ`ОСЯ)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. перажывае вялікую радасць ці моцную трывогу, хваляванне. **Сін**.: галава баліць *чыя, у каго, каму пра што,*

*аб чым, па кім, па чым*; галава гарыць *у каго*; душа баліць *чыя, у каго, каму* (у 2 знач.); душа гарыць *чыя, у каго*; душа не на месцы *ў каго*; душа ные *чыя, каму, у каго* (у 2 знач.); кошкі душу скрабуць *у каго, каму*; кошкі на душы скрабуць *у каго, чыёй*; нутро гарыць *чыё, у каго*; сэрца ёкнула *ў каго*; сэрца замірае *ў каго, чыё*; сэрца як не выскачыць *у каго. Прыгожыя, лёгкія Дошкі гонару — з іх пазіраюць такія дзяўчаты, што аж заходзіцца ад любасці сэрца.* Палтаран. *Калі Васіль выкопваў з ціны і раскі рыбіну з далонь, сэрца заходзілася ад радасці.* Мележ. *[Юля:] Як убачыла я вас, як вы на холадзе, без шапкі, ды песня гэта, аж сэрца ў мяне зайшлося.* Крапіва. *Мірон хацеў наддаць ходу, як раптам пачуў за плячыма хапатлівы нарастаючы шум. У Мірона аж сэрца зайшлося...* Кудравец.

**С`ЭРЦА КР`ОІЦЦА** *каму, чыё, ад чаго. У безас. ужыв. Разм.* Каму-н. нязносна цяжка ад душэўнага болю за што-н., хто-н. моцна перажывае за што-н. **Сін.:** душа крывёй абліваецца *чыя, у каго;* душа разрываецца <на часткі> *чыя, у каго*; сэрца пераварочваецца *ў каго;* сэрца рвецца з грудзей *у каго;* сэрца сціскаецца *ў каго* <*ад чаго*>. **Ант**.: душа мохам абрасла *ў каго. Рыбка непакоіцца з гэтакага суму, сэрца яе кроіцца, бо што ты надумаў?* Колас. *Што кажаш мне, паэт, аб праўдзе той, што будзе? Мне сэрца кроіцца ад крыўды нашых дзён.* Гарун. *Сэрца кроіцца ад смяртэльнага жалю, грудзі рвуцца ад непераможнага смутку!* Лёсік. *Спавілася бацькаўшчына наша страхоццем і жахам навокала. Кроіцца сэрца ад жалю і болю...* «Полымя».

**СЭРЦА КРЫВЁЙ АБЛІВАЕЦЦА** *чыё, у каго.* Гл. душа.

**С`ЭРЦА ЛЕДЗЯН`ЕЕ (ЛЕДЗЯН`ЕЛА)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. адчувае моцны страх, жах. **Сін**.: аслаблі гайкі *ў каго, чые* (у 1 знач.); валасы становяцца дыбам *у каго*; вочы на лоб лезуць *у каго* (у 2 знач.); душа ў пятках *у каго, чыя*; душа ў пяткі <схавалася> *у каго*; калені дрыжаць *у каго*; кроў ледзянее *ў каго*; кроў у жылах стыне *ў каго*; мароз па скуры <прабягае> *у каго, каго, чыёй*; мурашкі бегаюць па целе *ў каго, каго, чым*; неба з аўчынку здаецца *каму*; паджылкі трасуцца *ў каго*; скура шэрхне *на кім, у каго*; сэрца абрываецца *ў каго, чыё*; у пяткі кальнула *каму, каго* (у 1 знач.); <усе> блохі падохлі *ў каго. Сэрца ледзянее ад адной думкі, што можа здарыцца. Трэба быць сляпым ды глухім, каб не бачыць і не чуць, што робіцца навакол.* Мурашка. *Дзве гадзіны мы гутарылі з настаўніцай. Пачуў я тады такія гісторыі, што сэрца ледзянела...* Прокша.

**С`ЭРЦА НЕ К`АМЕНЬ** *у каго, чыё. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. ідзе на ўступкі, перастае супраціўляцца, уступае чыёй-н. просьбе. *Едзь, мама, сэрца ў Валодзі не камень, павінен зразумець, дзіця ж не павінна сірацінаю гадавацца, калі бацька жывы...* І.Капыловіч. *За сталом Іван не маўчаў: — Ты ведаеш, Кастусь? Аказваецца, жаночае сэрца не камень. Згадзілася Насця вяселле справіць.* Ярашэвіч. *Марыя праплакала тады ўсю ноч. Але сэрца не камень, тым больш жаночае. Даравала. Калі чалавека кахаеш, яму шмат даруеш.* Шашкоў.

**СЭРЦА НЕ ЛЯЖЫЦЬ** *чыё, у каго, каго.* Гл. душа.

**СЭРЦА НЕ НА МЕСЦЫ** *ў каго.* Гл. душа.

**СЭРЦА НЫЕ** *чыё, каму, у каго.* Гл. душа.

**С`ЭРЦА ПЕРАВАР`ОЧВАЕЦЦА (ПЕРАВЯРН`УЛАСЯ)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. адчувае глыбокі смутак, шкадаванне, цяжка перажывае што-н. **Сін**.: душа крывёй абліваецца *чыя, у каго*; душа разрываецца <на часткі> *чыя, у каго*; сэрца кроіцца *каму, чыё, ад чаго*; сэрца рвецца з грудзей *у каго*; сэрца сціскаецца *ў каго <ад чаго>*. **Ант**.: душа мохам абрасла *ў каго. Бывае яшчэ, баба ў роспачы так загалосіць, тады не толькі валасы ўстаюць, сэрца пераварочваецца.* Кудравец. *І здалёку, пад безуважным поглядам, здаваўся мне яе Напалеон даволі жалкім, а цяпер — сэрца ў мяне перавярнулася ад жалю...* Гарэцкі.

**СЭРЦА РАЗРЫВАЕЦЦА <НА ЧАСТКІ>** *чыё, у каго.* Гл. душа.

**С`ЭРЦА РВ`ЕЦЦА (РВ`АЛАСЯ) З ГРУДЗ`ЕЙ** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Каму-н. нязносна цяжка ад душэўнага болю за каго-, што-н.; хто-н. моцна перажывае за што-н. **Сін**.: душа крывёй абліваецца *чыя, у каго*; душа разрываецца <на часткі> *чыя, у каго*; сэрца кроіцца *каму, чыё, ад чаго*; сэрца пераварочваецца *ў каго*; сэрца сціскаецца *ў каго <ад чаго>*. **Ант**.: душа мохам абрасла *каго. — Мы ваюем, Міха, у нас нельга плакаць!.. — Прагані мяне, Тарыел, у мяне сэрца рвецца з грудзей... Але не папракай у слабасці, прашу цябе!* Самуйлёнак. *Сэрца рвалася з грудзей: Косця! Гэта зрабіў Косця! Страх за яго гнаў бацьку хутчэй даведацца, што з ім, дзе ён цяпер.* Шамякін.

**СЭРЦА СПЯВАЕ** *ў каго, чыё.* Гл. душа.

**С`ЭРЦА СЦІСК`АЕЦЦА (СЦІСК`АЛАСЯ)** *у каго <ад чаго>. У безас. ужыв. Разм.* Каму-н. нязносна цяжка ад душэўнага болю за каго-, што-н.; хто-н. моцна перажывае за што-н. **Сін**.: душа крывёй абліваецца *чыя, у каго*; душа разрываецца <на часткі> *чыя, у каго*; сэрца кроіцца *каму, чыё, ад чаго*; сэрца пераварочваецца *ў каго*; сэрца рвецца з грудзей *у каго.* **Ант**.: душа мохам абрасла *ў каго.*

*Пасля [няшчасная кабета] па вуліцы прайшла, як быццам каралева... Аж сэрца, гледзячы, сціскаецца ад жалю.* Крапіва. *А ў нас, братка, многа яшчэ такога, што сэрца сціскаецца. П'янства гэта, бойкі...* Каваль. *У лейтэнанта кожны раз сціскалася сэрца ад думкі, што іх усё менее. Яшчэ не дайшлі да месца, а ўжо чацвярых не стала.* Быкаў.

**С`ЭРЦА ЯК (ЧУЦЬ) НЕ В`ЫСКАЧЫЦЬ (НЕ В`ЫСКАЧЫЛА)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. непакоіцца, трывожыцца ў чаканні чаго-н. страшнага. **Сін**.: галава баліць *чыя, у каго, каму пра што, аб чым, па кім, па чым*; галава гарыць *у каго*; душа баліць *чыя, у каго, каму* (у 2 знач.); душа гарыць *чыя, у каго*; душа не на месцы *ў каго*; душа ные *чыя, каму, у каго* (у 2 знач.); кошкі душу скрабуць *у каго, каму*; кошкі на душы скрабуць *у каго, чыёй*; нутро гарыць *чыё, у каго*; сэрца ёкнула *ў каго*; сэрца заміpae *ў каго, чыё*; сэрца заходзіцца *ў каго. Слухае Зося, што расказвае Тодар, а ў самой сэрца аж як не выскачыць.* Крапіва. *Нясмела пасоўваю руку да плота, потым у шчыліну і — пальцы мае дакранаюцца яблыка! Сэрца як не выскачыць!* Якімовіч. *О божа! У мяне сэрца чуць не выскачыла... Дзе ж ты бадзяешся, валацуга ты няшчасны? Як табе не сорамна!..* Шамякін.

**ТРЫМАЦЬ СЭРЦА Ў КУЛАКУ.** Гл. трымаць.

**УВАХОДЗІЦЬ У СЭРЦА** *каго, чыё.* Гл. уваходзіць.

**ЯК КАМЕНЬ З СЭРЦА ЗВАЛІЎСЯ** *ў каго.* Гл. камень.

**НОЖ У СЭРЦА** *каму, для каго.* Гл. нож.

*СЭРЦАМ* • **БАЛЕЦЬ СЭРЦАМ** *за каго, за што, па кім, па чым.* Гл. балець.

**З АДКРЫТЫМ СЭРЦАМ.** Гл. душой.

**З ЛЁГКІМ СЭРЦАМ.** Гл. душой.

**З РАЗБ`ІТЫМ С`ЭРЦАМ.** *Акал. Разм.* Адчуваючы непакой, пакутуючы (звычайна з-за няўдалага кахання). *Гаршчэня, з разбітым сэрцам, глядзеў кудысьці ўдалечыню, але нічога не бачыў.* Гурскі. *[Анастасія:] Ведаеце, як мы пазнаёміліся? У мяне балеў зуб. Зайду, думаю, у суседні нумар, папрашу лекаў. Прыйшла з балючым зубам, а пайшла з разбітым сэрцам.* Дзялендзік.

**З С`ЭРЦАМ** сказаць, крыкнуць і пад. *Акал. Разм.* Сярдзіта, раззлавана. *— Як то ў сваты, то Гапон ужо задумаў жаніцца? — крыкнуў з сэрцам аканом...* Дунін-Марцінкевіч. *— Якія ты мурзаты, Паўлік, — з сэрцам сказала Дар'я Антонаўна.* Дайліда. *— Эх, ч-чорт!.. — з сэрцам вылаяўся напаўголасу Глінскі. — Рукі голыя... Ну што, што можна зрабіць?* Хадкевіч.

**З ЦЯЖКІМ СЭРЦАМ.** Гл. душой.

**СА СПАК`ОЙНЫМ С`ЭРЦАМ; СА СПАК`ОЙНАЙ ДУШ`ОЙ.** *Акал. Функц. не зам.* Без трывогі і апаскі, без роздуму. **Сін**.: з лёгкай душой. **Ант**.: з цяжкай душой. *Цяпер-то можна са спакойным сэрцам адрапартаваць камандзіру дывізіі, а то і самому камандуючаму арміі...* Лынькоў. *Не было яшчэ дня, каб можна было са спакойным сэрцам сказаць: вось цяпер усё ў парадку.* Шахавец. *Так мы тады пагасцявалі ў яго [Мароза] і са спакойнай душой развіталіся.* Быкаў.

**УС`ІМ С`ЭРЦАМ.** *Акал. Функц. не зам.* **1**. Бязмежна, шчыра, сардэчна (любіць, кахаць, верыць, ганарыцца і пад.). **Сін**.: усёй душой (у 1 знач.). «*Мой сынок, — пісала Раіса Цімафееўна, — усім сэрцам ганаруся табой, пагранічнікам.* «Звязда». *І Тодар, казалі, цярпеў, бо баяўся страціць жонку, якую ён, не гледзячы на ўсё, любіў усім сваім шчуплым сэрцам.* Крапіва.

**2**. Поўнасцю, цалкам, усёй істотай (быць на баку каго-н., адчуваць і пад.). **Сін**.: усёй душой (у 2 знач.). *У самыя чорныя дні, калі крывавыя гадзіны працягвалі свае брудныя лапы да берагоў вялікай Волгі, мы ведалі, мы адчувалі ўсім сэрцам блізкасць нашага свята, нашых перамог.* Лынькоў. *Усім сэрцам [я] адразу адчуў сапраўдную волю.* Броўка.

*СЭРЦУ* ● **ДАВАЦЬ ВОЛЮ <СВАЙМУ> СЭРЦУ.** Гл. даваць.

*СЭРЦЫ* ● **КАМЕНЕМ ЛЯЖЫЦЬ НА СЭРЦЫ** *чыім.* Гл. ляжыць.

**КАМЕНЬ НА СЭРЦЫ** *ў каго.* Гл. камень.

**КОШКІ НА СЭРЦЫ СКРАБУЦЬ** *у каго, чыім.* Гл. кошкі.

**ЛЯЖАЦЬ НА СЭРЦЫ** *ў каго, каму.* Гл. ляжаць.

**МЕЦЬ БОГА Ў СЭРЦЫ.** Гл. мець.

**НА ВУСНАХ МЁД, А НА СЭРЦЫ ЛЁД** *у каго.* Гл. мёд.

**НА С`ЭРЦЫ** *ў каго, каму як. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. адчувае той ці іншы душэўны стан. **Сін**.: на душы (у 1 знач.). *[Ганка:] Я ведаю, мой княжа, але неспакойна ў мяне на сэрцы.* В.Вольскі. *Трывожна было на сэрцы ў Івана, асабліва ад гэтых бабскіх слёз, ад мокрых вачэй...* Кудравец. *[Паўлінка:] Мне дужа добра, весела і так лёганька, лёганька на сэрцы...* Купала. *Зварушылася, зашамацела ўсё жывое. І пачалося прыгожае ў сваёй патаемнасці жыццё. А Горбачу цяжка на сэрцы.* Мурашка.

**ПА С`ЭРЦЫ** *каму. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Падабаецца. **Сін**.: да густу *каму,* да душы *каму*; да смаку *каму*; да сэрца *каму*; западаць у вока *каму* (у 2 знач.); па густу *каму*; пад густ *каму*; па душы *каму*; па нутры *каму*; як маслам па душы *каму.* **Ант**.: не ў смак *каму. [Пятрук:] Як ні шарашыся, д[ы] я ведаю добра, што я табе па сэрцы; ты б рада*

*была і зараз заспяваць.* Дунін-Марцінкевіч. *Шапятоўцам такая гаворка, як нікому, была па сэрцы, бо ж побач ляжалі шырокія прасторы панскай зямлі, ад якой спадзяваўся кожны атрымаць нейкі кавалак і сабе.* Галавач. *[Марта] з такой беднаты ў мінулым, што, мабыць, толькі выйшаўшы замуж за Ванадыся, і ўбачыла тут, на хутары, крышку жыцця. І ёй цяпер гэты хутар не па сэрцы.* Хадкевіч.

*Прыйсціся* **ПА С`ЭРЦЫ.** *Акал. Разм.* Даспадобы (прыйсціся каму-н.). **Сін**.: *прыйсціся* да густу; *прыйсціся* да душы; *прыйсціся* да смаку; *прыйсціся* па густу; *прыйсціся* пад густ; *прыйсціся* пад нораў; *прыйсціся* па душы; *прыйсціся* па нутры; у масць. *Анціпікаў твар праясніўся: парада і дапамога калегі прыйшліся па сэрцы.* Колас. *У бальніцу Клімёнак трапіў першы раз, а да гэтага ён бачыў яе толькі здалёк і не любіў, а дактароў баяўся. А гэты стары белы доктар неяк адразу яму прыйшоўся па сэрцы.* Дамашэвіч.

**РАЗАНУЦЬ <НАЖОМ> ПА СЭРЦЫ** *каго.* Гл. разануць.

**ЧЫТАЦЬ У СЭРЦЫ** *чыім, у каго.* Гл. чытаць.

**ЯК МАСЛАМ ПА СЭРЦЫ.** Гл. маслам.

**ЯК НАЖОМ ПА СЭРЦЫ** *каму.* Гл. нажом.

*СЮД* ● **С`ЮД-Т`УД (Т`УД-С`ЮД).** *Акал. Разм.* **1**. З аднаго боку ў другі, супрацьлеглы; у розных кірунках (хадзіць, бегаць, снаваць і пад.). **Сін**.: з кута ў кут; <і> туды і сюды; сюды-туды (у 1 знач.); то туды то сюды; то ўзад то ўперад; узад і ўперад. *Аляксей няўцямна сачыў позіркам за Пусем, а той бегаў сюд-туд па насыпе, прыкладваючы да вока кінакамеру.* Місько. *Ляжаў на ложку Мікалай, хадзіў, снаваў сюд-туд па хаце — думаў, перабіраў у памяці то адно, то другое.* Сачанка. *Было людна на ўсіх лясных дарогах, туд-сюд бегалі сувязныя, ішлі разведгрупы.* Ваданосаў.

**2**. *Ужыв. пры дзеясл.-вык. незак. тр.* Вельмі часта, бесперапынна (рабіць што-н.). **Сін**.: раз за разам; раз-пораз. *Герасім сюд-туд кідаў вокам на маю работу.* Якімовіч. *Семінарыст не мог нацешыцца з дарагога падарунка. Ён сюд-туд даставаў з кішэні гадзіннік, адкрываў вечка, любаваўся бліскучым цыферблатам, падносіў да вуха і слухаў.* С.Александровіч.

*СЮДЫ* ● **<І> СЮДЫ І ТУДЫ.** Гл. туды.

**<І> ТУДЫ І СЮДЫ.** Гл. туды.

**НІ ТУДЫ <І> НІ СЮДЫ.** Гл. туды.

**СЮД`Ы-ТУД`Ы (ТУД`Ы-СЮД`Ы).** *Разм.* **1**. *Акал.* З аднаго боку ў другі, супрацьлеглы; у розных кірунках (хадзіць, снаваць, глядзець і пад.). **Сін**.: з кута ў кут; <і> туды і сюды; сюд-туд (у 1 знач.); то туды то сюды; то ўзад то ўперад; узад і ўперад. *Пакуль іншыя пілі,*

*фельдфебель пасноўдаў сюды-туды па падворку.* Быкаў. *Глянуў [Грушка] сюды-туды: з комінаў цягнуліся ціхія дымы, цёплая, мяккая шэрасць атуліла неба, зямлю.* Пестрак. *У прасторнай, чыстай, светлай зале паны туды-сюды снавалі...* Колас. *Хадзіў Андрэй туды-сюды па калідоры...* Марціновіч.

**2**. *У безас. ужыв.* Ніштавата, цярпіма, можна цярпець. **Сін**.: з сярэдзінкі на палавінку (у 2 знач.); ні тое ні сёе (у 3 знач.); ні туды <і> ні сюды (у 1 знач.); так сабе (у 2 знач.). *Калі днём яшчэ сюды-туды, то ў гэты вячэрні змрок адчуваеш сябе нібы ў магіле.* Лынькоў. *Заробкаў няма. У сезон палявых работ яшчэ туды-сюды, а зараз хоць лажы зубы на паліцу.* Машара. *Юрка.. прызнаўся: — Так страшна. Каб яшчэ ўдвух, то туды-сюды.* Курто.

**3**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Ніштаваты, цярпімы. **Сін**.: з сярэдзінкі на палавінку (у 1 знач.); не бог ведае які; ні богу свечка ні чорту качарга; ні два ні паўтара (у 1 знач.); ні рыба ні мяса; ні сыры ні печаны; ні тое ні сёе (у 1 знач.); ні ў салдаты ні ў матросы; пасаліўшы можна есці; сярэдзінка на палавінку; сярэдняй рукі; так сабе (у 3 знач.); чорт не чорт і два не выходзіць. *Яшчэ ўсе словы сюды-туды, а як дападзеш да «херувім», дык хоць сядзь ды плач — надта ж брыдка ў мяне гэта слова выходзіла.* Крапіва. *Вы мне гэтых лісткоў не надта... І без лісткоў пакрысе разбіраемся. Кніжкі вось яшчэ туды-сюды... — Не сюды-туды, а бяры...* Мурашка. *Яўхім яшчэ туды-сюды, адносна спакайнейшы. А Зэнька такі сарвігалава, такі распуснік!* Цяжкі.

**ТО СЮДЫ ТО ТУДЫ.** Гл. туды.
**ТО ТУДЫ ТО СЮДЫ.** Гл. туды.
**ТУДЫ ЦІ СЮДЫ.** Гл. туды.

*СЯБЕ* ● **БАЧЫЦЬ СЯБЕ ВАЧАМІ** *каго.* Гл. бачыць.
**БІЦЬ СЯБЕ Ў ГРУДЗІ.** Гл. біць.
**БРАЦЬ НА СЯБЕ** *што.* Гл. браць.
**БРАЦЬ СЯБЕ Ў РУКІ.** Гл. браць.
**ВЫВОДЗІЦЬ З СЯБЕ** *каго.* Гл. выводзіць.
**ВЫДАВАЦЬ СЯБЕ.** Гл. выдаваць.
**ВЫДАВАЦЬ СЯБЕ З ГАЛАВОЙ.** Гл. выдаваць.
**ВЫКЛІКАЦЬ АГОНЬ НА СЯБЕ.** Гл. выклікаць.
**ВЫСЦЕБАЦЬ САМОГА СЯБЕ.** Гл. высцебаць.
**ВЫХОДЗІЦЬ З СЯБЕ.** Гл. выходзіць.
**ГАВОРЫЦЬ САМ ЗА СЯБЕ.**
**ГРЭБЦІ ПАД СЯБЕ** <*што*>. Гл. грэбці.
**ДАВАЦЬ СЯБЕ ЗНАЦЬ.** Гл. даваць.
**ЗАГАНЯЦЬ СЯБЕ Ў КУТ.** Гл. заганяць.

**ЗВЯЗВАЦЬ СЯБЕ ВУЗАМІ ГІМЕНЕЯ.** Гл. звязваць.
**ЗВЯРНУЦЬ НА СЯБЕ ЎВАГУ.** Гл. зварочваць.
**ЗЖЫВАЦЬ СЯБЕ.** Гл. зжываць.
**ЗНАЙСЦІ СЯБЕ.** Гл. знайсці.
**КУДЫ СЯБЕ ДЗЕЦЬ.** Гл. дзець.
**КУСАЦЬ СЯБЕ ЗА ЛОКАЦЬ.** Гл. кусаць.
**ЛАВІЦЬ СЯБЕ** *на чым.* Гл. лавіць.
**МНОГА БРАЦЬ НА СЯБЕ.** Гл. браць.
**НАДЗЯВАЦЬ НА СЯБЕ АБРОЦЬ.** Гл. надзяваць.
**НАДЗЯВАЦЬ <НА СЯБЕ> МАСКУ.** Гл. надзяваць.
**НАКЛАДВАЦЬ НА СЯБЕ РУКІ.** Гл. накладваць.
**НА ЛЮДЗЕЙ ПАГЛЯДЗЕЦЬ І СЯБЕ ПАКАЗАЦЬ.** Гл. паглядзець.
**НЕ ПОМНІЦЬ СЯБЕ** *<ад чаго>.* Гл. помніць.
**НЕ ПРЫМУСІЦЬ <ДОЎГА> СЯБЕ ЧАКАЦЬ.** Гл. прымусіць.
**НЕСЦІ СЯБЕ ВЫСОКА.** Гл. несці.
**ПАВОДЗІЦЬ СЯБЕ.** Гл. паводзіць.
**ПАДМЯЦЬ ПАД СЯБЕ** *што, каго.* Гл. падмінаць.
**ПАКАЗВАЦЬ СЯБЕ.** Гл. паказваць.
**ПРЫВОДЗІЦЬ У СЯБЕ** *каго.* Гл. прыводзіць.
**ПРЫХОДЗІЦЬ ДА СЯБЕ.** Гл. прыходзіць.
**ПРЫХОДЗІЦЬ У СЯБЕ.** Гл. прыходзіць.
**САМ ПРАЗ СЯБЕ.** Гл. сам.
**СКІНУЦЬ З СЯБЕ ВЕТХАГА АДАМА.** Гл. скінуць.
**СТАВЩЬ СЯБЕ НА МЕСЦА** *чыё, каго.* Гл. ставіць.
**СТРОІЦЬ З СЯБЕ** *каго.* Гл. строіць.
**СТРЫМЛІВАЦЬ СЯБЕ.** Гл. стрымліваць.
**ТРЫМАЦЬ СЯБЕ.** Гл. трымаць.
**ТРЫМАЦЬ СЯБЕ Ў РУКАХ.** Гл. трымаць.
**УБІРАЦЬ У СЯБЕ** *што.* Гл. убіраць.
**УВАХОДЗІЦЬ У <САМОГА> СЯБЕ.** Гл. уваходзіць.

**У СЯБ`Е.** *Акал. Разм.* У сваім пакоі, кабінеце, там, дзе звычайна знаходзіцца ці павінен быць па абавязку службы, пасады і пад. *[Заслонаў:] Зайдзі да Іванавіча, Касцюкевіча. Скажы, што я яго чакаю. Тут, у сябе, чакаю.* Маўзон. — *А дзе Ліна, Толік? — спытаў Сяргей у маці. —Яны ў сябе, — адказала Ніна Вітальеўна.* Ярашэвіч. *Павітаўся [Іван] са знаёмымі супрацоўнікамі, папытаўся, ці ў сябе Багавік. — У сябе, у сябе, — адказалі хуценька на хаду яму.* Сачанка. — *Шэф у сябе? — У сябе. І, як ні дзіўна, адзін.* Кацюшэнка.

**ЦЯГНУЦЬ КОЎДРУ НА СЯБЕ.** Гл. цягнуць.
**ЯК ЗА СЯБЕ ЗАКІНУЦЬ** *што.* Гл. закінуць.

**ЯК НЕ Ў СЯБ`Е** <u>*есці, піць*</u>. *Акал. Разм. Неадабр.* Уволю і ненасытна. **Сін**.: ад пуза (у 1 знач.); да адвалу; еш не хачу *чаго*; за трох дурных; колькі душа жадае; колькі ўлезе (у 1 знач.); на поўную губу (у 1 знач.); на ўсю губу; не ў свой дух; хоць жывот расперажы; хоць расперажыся; як дурны на памінках; як на дзяды (у 1 знач.); як у прорву. *Колькі таго хлопца, а есць як не ў сябе. Лопнеш яшчэ.* Крапіва. *Вось ты, Аглы, ясі як не ў сябе: за дваіх, за траіх, а сэрца, май на ўвазе, у цябе адно. Носіш ты кілаграмаў дваццаць лішняга грузу.* Гроднеў. *[Вярэніч:] Не можа такога наша ўлада цярпець, каб пілі людзі як не ў сябе.* Петрашкевіч. — *Той Васька, кажуць, піў як не ў сябе, — заікнуўся быў я.* Вышынскі.

*СЯГО* ● **НІ З ТАГО НІ З СЯГО.** Гл. таго.

*СЯГОННЯ* ● **НЕ СЯГОННЯ ДЫК ЗАЎТРА.** Гл. сёння.

*СЯГОННЯШНІМ* ● *Жыць* **АДНЫМ СЯГОННЯШНІМ ДНЁМ.** Гл. днём.

*СЯДЗЕЦЬ* ● **СЯДЗ`ЕЦЬ М`АКАМ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Быць у занядпадзе. *Трэба, Міхаіл Іванавіч, запісаць, што калгас усяго гэтага дамогся тады, як за старшыню сталі вы... Каб быў Папок, дык дагэтуль наш калгас сядзеў бы макам.* Сабаленка.

**СЯДЗ`ЕЦЬ НА БАБ`АХ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Знаходзіцца ў цяжкім становішчы, адчуваючы вострую патрэбу ў чым-н. **Сін**.: сядзець на мелі. *Попыт на будаўнічыя матэрыялы вялікі, а іх не хапае... Калі б Кадлубовіч быў не такі хвацкі гаспадар — сядзеў бы калгас на бабах.* «ЛіМ». *З тэмай спартыўнай таксама сядзім на бабах. Эўрыка! Зараз ідуць міжкалгасныя гульні...* «Полымя».

**СЯДЗ`ЕЦЬ НА ГАЛАВ`Е** *ў каго, чыёй. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Трымаць каго-н. у сваім падпарадкаванні. *[Альбіна:] Марыя, дзетка, ты таксама сядзіш у свайго Валдзіса на галаве. І нічога. [Марыя:] Я? У Валдзіса? Ды я яго бачу раз у паўгода.* Каржанеўская.

**СЯДЗ`ЕЦЬ НА ДВ`УХ КР`ЭСЛАХ.** *Незак. Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Займаць адначасова дзве пасады. *Рэкламы мне не трэба, Антон Ягоравіч, не дзеля яе я пайшоў у калгас, мяне турбуюць іншыя рэчы. Перш за ўсё я не маю яшчэ сабе замены ў эмтээс, сяджу на двух крэслах.* Хадкевіч.

**2**. *Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Займаць няпэўную, няясную пазіцыю, прытрымліваючыся розных, несумяшчальных пунктаў гледжання. *Апартэід і сапраўды сурова асуджаўся амаль усімі — за асобнымі выключэннямі — дзяржавамі.*

*Але вось што датычыць ЗША, то яны і тут спрабавалі сядзець на двух крэслах.* Вярцінскі. *Спрабаваць сядзець на двух крэслах — занятак рызыкоўны. Тым больш няпроста балансаваць паміж нечымі ўяўленнямі пра «позу» і «пазіцыю».* «ЛіМ».

**СЯДЗ`ЕЦЬ НА М`ЕЛІ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знаходзіцца ў цяжкім становішчы, адчуваючы вострую патрэбу ў чым-н. **Сін.**: сядзець на бабах. *Самы старэйшы супрацоўнік рэдакцыі выказаўся, што лепш за ўсё быць на «вольным хлебе». Пішы толькі тое, да чаго ляжыць душа, супрацоўнічай з любой газетай. «І сядзі на мелі, – падвёў вынікі Шыцько, – перабівайся з капейкі на капейку...».* Баравікова.

**СЯДЗ`ЕЦЬ НА ХЛ`ЕБЕ І (ДЫ) <НА> ВАДЗ`Е.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Жыць надгаладзь, галадаць. **Сін.**: класці зубы на паліцу; ляскаць зубамі; смактаць лапу. *Білеты былі вельмі дарагія, і пасля прыходзілася моцна эканоміць, сядзець на хлебе і вадзе.* Арабей. *Сядзеў ён, бедалага, на вадзе і хлебе, пакуль Малінін не выручыў.* Масарэнка. *— Усё роўна высветлю, за якія грошы матацыкл куплены, — упарта сказаў Корзун... А сын Буевіча... пажартаваў: «На хлебе ды на вадзе сядзеў, па капейцы збіраў».* Шыцік.

**СЯДЗ`ЕЦЬ НА ТЭЛЕФ`ОНЕ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Часта званіць і доўга гаварыць па тэлефоне. **Сін.**: абрываць тэлефон; вісець на тэлефоне. *Ліберман па-ранейшаму «сядзіць на тэлефоне», Рабцаў і Камарыцкі корпаюцца ў паперах і таксама не звяртаюць увагі на словы рэдактара.* Кандрусевіч. *Да абеду Сяргей сядзеў на тэлефоне, званіў у калгасы.* Дзятлаў.

**СЯДЗ`ЕЦЬ НА ЧАМАД`АНАХ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Склаўшы рэчы, чакаць ад'езду. *Жывём па-старому ў Маскве, але сядзім цяпер, як гаворыцца, на чамаданах, бо з кожным днём усё бліжай і бліжай да ад'езду.* Лынькоў. *Ёсць жа такія людзі: адны гатовы куды хочаш, на чамаданах толькі і сядзяць усё жыццё, а другія...* Пташнікаў. *Эдзік адразу, як я толькі пераступіў парог, напаў на мяне: — І дзе ты прападаў столькі? Мы тут на чамаданах сядзім, а ён...* Гаўрылкін.

**СЯДЗ`ЕЦЬ НА Ш`ЫІ (НА К`АРКУ, НА ГАРБ`Е)** *чыёй, у каго, каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць на чыім-н. забеспячэнні, утрыманні. **Сін.**: вісець на шыі *ў каго, чаго, чыёй* (у 1 знач.); есці хлеб (у 2 знач.); садзіцца на карак *каму, чый, каго* (у 2 знач.). **Ант.**: злазіць з карку *чыйго. А вам, сынкі мае любыя, не век сядзець на маёй шыі!* Колас. *У маім узросце бацька ўжо цэлую сям'ю карміў, хату пабудаваў, іншыя людзі навуковыя*

*адкрыцці паспелі зрабіць, а я? Сяджу ў бацькоў на шыі!..* Карпюк. *Пачула, як пахне фарбай, — і не магу: колькі можна без работы? Ды і жыць за нешта трэба, не сядзець жа на шыі бацькоў.* І.Капыловіч. — *Ён самастойны чалавек... —Калі сядзеў на маім карку, тады вы маўчалі пра самастойнасць!* Шамякін. *Сям'я трымала карову, парсюкоў, курэй, бо як жа ты ў вёсцы пражывеш, калі хочаш спадзявацца толькі на сябе, не сядзець на карку ў бацькоў...* «ЛіМ». *За гонар яшчэ палічы для сябе, што буду сядзець у цябе на гарбе.* Крапіва.

**СЯДЗ`ЕЦЬ НЕ Ў СВА`ІХ САН`ЯХ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Займацца справай, якая не адпавядае каму-н. па яго якасцях, ведах, прызванні і пад. *Рыгор Агеевіч пастаянна пакутаваў ад думкі, што сядзіць не ў сваіх санях, што людзі, якім ён даваў тыя ці іншыя ўказанні, заўсёды лепш за яго ведалі, што і як трэба рабіць.* Раманаў.

**СЯДЗ`ЕЦЬ СКЛ`АЎШЫ (ЗЛАЖ`ЫЎШЫ) Р`УКІ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Бяздзейнічаць. **Сін**.: біць лынды (у 2 знач.); круціць вала <за хвост> (у 1 знач.); падпіраць вуглы. *Трэба працаваць, памагаць людзям, а не супакоіцца і сядзець склаўшы рукі.* Галавач. — *А ў Вялікую Айчынную вайну што вы рабілі?.. — Таксама не сядзеў склаўшы рукі. Хадзіў на жалезку, партызаніў, — расказваў Асадчы.* Гурскі. *Атака захлынулася, і паўтараць яе не было сэнсу. А сядзець склаўшы рукі — злачынства перад рэвалюцыяй, перад таварышамі, якія гінулі ў горадзе.* Грахоўскі. *[Кацярына:] Чаго, мамка, раз'ехалася, як прачыстая па сенажаці? Я ж не сядзела рукі злажыўшы.* Купала. *Мы не можам увесь час сядзець злажыўшы рукі ды глядзець, як яно само будзе рабіцца.* Крапіва.

**СЯДЗ`ЕЦЬ У ДЗ`ЕЎКАХ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы жаночага полу. Не выходзіць замуж. *[Грыпіна:] За такога, як ты, я яе не выдам; няхай лепш у дзеўках сядзіць...* Чарот. *Бацька загадаў мне: «Ідзі, кажа, дакуль ты будзеш сядзець у дзеўках, добры чалавек знайшоўся — і ідзі...»* Каваль. *[Мальвіна:] Мне б пачакаць яшчэ трохі.., дык маці мая, нябожчыца, светлай памяці, усё — ідзі ды ідзі, даволі табе, кажа, у дзеўках сядзець.* В.Вольскі.

**СЯДЗ`ЕЦЬ У ПЯЧ`ОНКАХ** *у каго, каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. адуш. ці неадуш. прадмета. Моцна раздражняць каго-н., перашкаджаць, дакучаць каму-н. **Сін**.: стаяць косткай у горле *каму, у каго*; стаяць папярок горла *каму.* — *Колькі яна курэй маіх павыцягвала! — Яна мне тут у пячонках сядзіць!* Кобец. *Ваш з Мураўёвым слінявы гуманізм сядзіць у мяне ў*

*пячонках. Не бачылі вы вайны!* Шамякін. — *Гэтыя падручнікі і сшыткі ў мяне ў пячонках сядзяць, — паскардзіўся Жукоўскі.* Б.Стральцоў. *Валодзя.. частуе нас музыкай. Мне, шчыра кажучы, яго музыка ўжо ў пячонках сядзіць.* Радкевіч.

**СЯДЗ`ЕЦЬ <ЦВІК`ОМ, ГВАЗД`ОМ> У ГАЛАВ`Е** *ў каго, чыёй. Незак. Разм.* Часцей ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Неадчэпна прысутнічаць у свядомасці. Пра думку, ідэю і пад. **Сін**.: не выходзіць з галавы <*чыёй, у каго*>; стаяць у галаве *каму, чыёй*; урэзацца ў памяць *каму. Усе смяяліся, зразумеўшы, што падсвядома ў кожнай галаве цвіком сядзела думка аб пяцістах пудах пораху.* Караткевіч. *«А грэх мне казаць «дурацкае», дзе толькі цемната», – гваздом сядзела ў галаве яго непазбытная думка.* Гарэцкі. *Не любіць Юзік гэтай работы. Не таму толькі, што яна вельмі цяжкая: няспорная надта. За пусцяковыя вынікі трацішча чорт што сілы і часу. Гвоздом сядзіць гэтая думка ў Юзікавай галаве і яшчэ горш адбівае ахвоту ад гэтай работы.* Крапіва. *У цябе толькі графік у галаве сядзіць. У цябе галава не баліць, што дабро на полі гіне.* Макаёнак. *[Таццяна] адмахвалася ад думак пра нешта благое, ды яны ўсё адно не прападалі, сядзелі ў галаве.* Гіль. **ЗАСЕСЦІ <ЦВІКОМ, ГВАЗДОМ> У ГАЛАВЕ** *ў каго, чыёй. зак. Барадаты нават кінуў махорку ў чырвонаармейцаў выпрошваць, да таго заселі ў яго галаве невясёлыя думкі аб загінуўшым без усякіх вестак таварышу.* Лынькоў.

*СЯДЗЕШ* ● *На каго* **ДЗ`Е С`ЯДЗЕШ Т`АМ І ЗЛ`ЕЗЕШ.** *У безас. ужыв. Праст. Адабр. і неадабр.* Хто-н. не любіць падпарадкоўвацца каму-н., выконваць чыю-н. волю. *Аднак Кузняцоў быў такі, што дзе сядзеш на яго, там з яго і злезеш. Умеў адбрыквацца.* Быкаў. *«Трасцу ты мне верыш, — думаю я сам сабе. — Але на гэты раз я цябе перахітру, нічога ў цябе не выйдзе. Дзе сядзеш, там і злезеш».* Васілёнак.

*СЯДЗІЦЬ* ● **В`ОСЬ (В`О) ДЗ`Е (Т`УТ) СЯДЗ`ІЦЬ (СЯДЗ`ЯЦЬ)** *у каго, каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. (Хто-н. ці што-н.) прычыняе вялікія клопаты, непрыемнасці, неспакой, выклікае небяспеку, злосць. Выраз незадаволенасці, які звычайна суправаджаецца жэстам з указаннем на шыю, карак і інш. —*Атрад Касача вось дзе ў мяне сядзіць, — паказаў сабе на карак Кастроўскі.* Гурскі. — *Чарнільшчыкі гэтыя во дзе ў мяне сядзяць. — Лёнька ляпнуў сябе па патыліцы.* Гіль. — *Электрычнасць... — паўтарыў Дубель сказанае Галяй. — Яна ў мяне во дзе сядзіць, во. — Ён прылажыў кулак к грудзям. — Мы падалі заяўку, каб нас падключылі к дзяржаўнай лініі.* Ермаловіч. — *Мне гэты склад вось тут сядзіць, — паказаў*

*сабе на шыю Маркіросаў.* Арабей.

**НЯЧЫСТАЯ СІЛА СЯДЗІЦЬ** *у кім.* Гл. сіла.

**ЧОРТ СЯДЗІЦЬ** у *кім.* Гл. чорт.

*СЯДЗІШ* ● **СЕКЧЫ СУК, НА ЯКІМ СЯДЗІШ.** Гл. секчы.

*СЯДЛА* ● **ВЫБІВАЦЬ З СЯДЛА** *каго.* Гл. выбіваць.

*СЯДЛАЦЬ* ● **СЯДЛ`АЦЬ ПЕГ`АСА.** *Незак. Кніжн. Часам іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Займацца паэзіяй, пісаць вершы. **АСЯДЛАЦЬ ПЕГАСА.** *Зак. Штосьці доктара Тараса пацягнула да Парнаса, асядлаць Пегаса марыць, верш за вершам так і шпарыць.* «ЛіМ». *Асядлаў Пегаса з адзіным імкненнем — хутчэй перасесці на ўласны аўтамабіль.* «ЛіМ». *Спрадвеку было ого колькі ахвотнікаў асядлаць Пегаса і трапіць на Парнас.* «Вожык». *Не кожнаму наканавана асядлаць пегаса, тым больш – прарвацца на ўсесаюзную арэну.* Блакіт.

*СЯДЛО* ● <u>*Сядзець*</u> **ЯК (НІБ`Ы, БЫ) НА КАР`ОВЕ СЯДЛ`О.** *Акал. Разм.* Нязграбна, дрэнна, не аблягаючы цела. Пра адзенне. **Сін**.: як на калу; як на свінні набэдрыкі. *Дарагія гарнітуры хлопцаў сядзелі на іх як на карове сядло, ціснулі пад пахамі, муллялі ў грудзях.* Караткевіч. *Што возьмеш ад гэтага цывільнага Сімановіча? На ім кіцель сядзіць як на карове сядло.* Дамашэвіч. *Каля аднаго з такіх асабнячкоў Андрэй сустрэў даволі высокага чалавека ў цёмным касцюме, з плашчом, перакінутым цераз руку, і ў шэрым капелюшы, які сядзеў на галаве ў чалавека бы сядло на карове.* Васілёнак.

<u>*Ідзе, падыходзіць*</u> **ЯК СВІНН`І СЯДЛ`О.** *Акал. Прост. Іран.* Зусім не (падыходзіць каму-н. што-н.). — *Мяне? Высадзіць?! — засмяяўся Пятак. — Гаворыць абы-што, а яшчэ ў капелюшы! Ідзе ён табе як свінні сядло! Ха-ха-ха-ха!* Ваданосаў. — *Бакенбарды яму — як свінні сядло, — не ўтрымаўся і Шышкін.* Няхай.

*СЯДЫ* ● **СЯД`Ы-ТАД`Ы (ТАД`Ы-СЯД`Ы).** *Акал. Разм.* Часам, у некаторых выпадках. **Сін**.: другім разам (у 1 знач.); іншы раз; то тады то сяды; тыя разы. *Трэці, доўгі, худы і пануры, з зямлістым колерам твару, сядзеў над нейкаю паперкаю, углыбіўшыся ў чытанне, і рабіў сяды-тады ў ёй паметкі.* Колас. *Мачыха пачынала сяды-тады злосна пакрыкваць ужо і на дзеда.* Сабаленка. *Змітрык тады-сяды купляў што-небудзь таннае, за што надзімаўся, як сыч, і злаваў бацька...* Адамчык. *Тады-сяды малое быццам супакойвалася, аднак, ледзь маці забывалася, яно зноў пачынала варушыцца і жаласліва мармытаць...* Калодзежны.

**ТО ТАДЫ ТО СЯДЫ.** Гл. тады.

*СЯК* ● **<І> ТАК І СЯК.** Гл. так.

**НЕ С`ЯК ДЫК Т`АК.** *Акал. Разм.* Тым ці іншым спосабам. **Сін**.: не кіем дык палкай (у 2 знач.); так ці інакш (у 1 знач.); хоць бокам хоць скокам; хоць так хоць сяк; ці скокам ці бокам; ці так ці сяк (у 2 знач.). *Калі ўзяць, дык — надта хітры, калі даць, дык «носік вытры». Увільне не сяк дык так, бо нашто ж бы быў кулак?* Крапіва.

**С`ЯК-Т`АК (Т`АК-С`ЯК).** *Акал. Разм.* **1**. Нейкім чынам, з пэўнымі намаганнямі (рабіць што-н.). *Каб не збегла тады была ад яго [Бушмара] жонка, ён, можа б, і яшчэ сяк-так трымаў бы добрага таго каня свайго...* Чорны. — *Без дзесяці восем, — сказаў я, так-сяк разгледзеўшы стрэлкі свайго гадзінніка.* Быкаў. *Разувайся і, коўзаючыся па чарназёме, хапаючыся за кусты, так-сяк дабрыдзела да суседняга сяла.* Грахоўскі.

**2**. *Неадабр.* Як папала, абы-як (жыць, рабіць што-н.). **Сін**.: абы дзень адбыць; абы дзень да вечара (у 1 знач.); абы з рук; з плеч ды ў печ (у 2 знач.); з пятага на дзесятае (у 2 знач.); па канец рук; праз пятае ў дзесятае (у 2 знач.); пусці паралюся (у 2 знач.); спусціўшы рукавы; сяк-так накасяк <абы не па-людску>; цапам-лапам; цапу-лапу; цераз пень калоду (у 1 знач.); цяп ды ляп. **Ант**.: душы паслухаючы; з аганьком; закасаўшы рукавы; не пакладаючы рук. *І ўсе тужліва замаўкалі, і думкі кожнага займалі аб тым, што тут жывеш дачасу, жывеш сяк-так, пакуль жывецца.* Колас. *Усе прывыклі не па-людску сяк-так боўтацца ў начоўках.* Крапіва.

**С`ЯК-Т`АК (Т`АК-С`ЯК) НАКАС`ЯК (НАЎСКАС`ЯК) <АБЫ НЕ ПА-Л`ЮДСКУ>.** *Акал. Разм. Неадабр.* Як папала, абы-як (рабіць, выходзіць, атрымлівацца). **Сін**.: абы дзень адбыць; абы дзень да вечара (у 1 знач.); абы з рук; з плеч ды ў печ (у 2 знач.); з пятага на дзесятае (у 2 знач.); па канец рук; праз пятае ў дзесятае (у 2 знач.); пусці паралюся (у 2 знач.); спусціўшы рукавы; сяк-так (у 2 знач.); цапам-лапам; цапу-лапу; цераз пень калоду (у 1 знач.); цяп ды ляп. **Ант**.: душы паслухаючы; з аганьком; закасаўшы рукавы; не пакладаючы рук. *[Аляксей:] Мы, апроч браку, пакуль што мала чаго рабіць умеем. Сяк-так накасяк абы не па-людску.* Карпаў. *У нас і выходзіць: так-сяк накасяк абы не па людску.* Адамчык. — *Каму, дзядзька, шанцуе, той і ўвесь век свой танцуе. —Яно і праўда. Адзін увесь век сяк-так наўскасяк, а другі не толькі танцуе, але і прыпявае.* А.Жук. *Кінь, Зміцер, рабіць так-сяк наўскасяк абы не па-людску — народ цябе абсмяе!* Карпюк.

**ТАК ЦІ СЯК.** Гл. так.

**ХОЦЬ ТАК ХОЦЬ СЯК.** Гл. так.

**ЦІ ТАК ЦІ СЯК.** Гл. так.

*СЯКЕРА* ● **СЯК`ЕРА (ТАП`ОР) ПАД Л`АЎКАЙ (Л`АВАЙ).** *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Разм.* Не знаходка, не адкрыццё, даўно вядомая рэч, з'ява, факт і пад. *Сякера пад лаўкай! – Скарупкаў двухтомны «Slownik frazeologiczny», які так доўга чакаў маёй пільнейшай увагі.* Брыль. *– Па Мюлеру, галоўная пагроза дзяржаве зыходзіць ад народа, а дакладней, ад народа, які маўчыць. – Чарговая сякера пад лавай, сказала я. – Гэта было яшчэ ў Пушкіна: «Народ безмолвствует».* Кусянкоў. *Нагадаю, хоць, як кажуць, гэта і сякера пад лавай, але пры дапамозе гэтага «глупства» земляробы-землеўладальнікі на Захадзе паставілі справу так, што і раней, і цяпер не ведаюць, куды збываць мяса, малако, хлеб...* «ЛіМ». *Знаходка – тапор пад лаўкай.* Барадулін.

**ЯК СЯКЕРА.** Гл. калун.

*СЯКЕРАЙ* ● **ЯК <СЯКЕРАЙ> АДСЕК.** Гл. адсек.

*СЯКЕРУ* ● **ЗНАЙШОЎ СЯКЕРУ ПАД ЛАЎКАЙ.** Гл. знайшоў.

**ХОЦЬ СЯКЕРУ ВЕШАЙ.** Гл. вешай.

*СЯКІ* ● **СЯК`І-ТАК`І НЯМ`АЗАНЫ (ТАК`І-СЯК`І НЯМ`АЗАНЫ).** *М. і ж., адз. і мн. Часцей азн. Праст.* Выраз, які ўжыв. замест разгорнутай характарыстыкі ці ацэнкі каго-н., звычайна адмоўнай. **Сін**.: сякі-такі (у 3 знач.); такі ды сякі. *[Жлукта:] Хацеў бы я яшчэ зайсці да таварыша Бывалава... Перадайце яму прывітанне. Скажыце, што прыехаў сякі-такі нямазаны.* Крапіва. *Ужо зусім іншым тонам, ад якога нельга было не здрыгануцца, паліцай вылаяўся. — Такія-сякія нямазаныя! Хадаронка ўгробілі? Цяпер мы вам разматаем на плоце кішкі.* Быкаў.

**СЯК`І-ТАК`І (ТАК`І-СЯК`І).** *М., ж., н.*; *адз. і мн. Азн. Разм.* **1**. Некаторы. *Дык пройдзем да мяне, у штаб, там сякія-такія запасы ёсць.* Гурскі. *Пасядзелі яшчэ тыдзень у цёткі Ядвігі, і я пачаў намацваць сякіх-такіх партызан.* Быкаў.

**2**. Нязначны. *Былі за Мішкам і такія-сякія промахі праз яго выключную прагнасць да ласункаў.* Лынькоў. *Мы не паспелі нават сякі-такі парадак у хаце навесці, як да нас ужо завітаў госць.* Палтаран.

**3**. Выраз, які ўжываецца замест разгорнутай характарыстыкі ці ацэнкі каго-н., звычайна адмоўнай. **Сін**.: сякі-такі нямазаны; такі ды сякі. *[Дзядзька] выйшаў, бухнуўся ў развалкі: — Но! Пайшоў, сякі-такі!* Крапіва. *[Канаплёў] расказваў, як забіралі ў Зарэччы парсюка ў жынчыны, бо яна не плаціла падаткі. — Крычыць яна, што вы робіце, такія-сякія? А што мы робім? Пагашаем нядоімку.* Левановіч.

**ТАКІ ДЫ СЯКІ.** Гл. такі.

*СЯЛУ* ● **НІ К СЯЛ`У НІ К Г`ОРАДУ.** *Разм. Неадабр.* **1**. *Акал. Часцей*

*ужыв. ў спалучэнні з дзеясл. маўлення.* Зусім недарэчна, неўпапад. **Сін**.: ні зіму ні лета; ні з пушчы ні з поля; ні ў пяць ні ў дзесяць. *Замест «благодарю» ляпне Міхалка ні к сялу ні к гораду — «дзякую».* Колас. *Гаворка ў абодвух іх выходзіла складна, але ні к сялу ні к гораду.* Чорны. *[Цімка] ні к сялу ні к гораду адпаліў раптам: — I ляснуў бы вось я па ўсіх тваіх прычындалах, толькі б шкло пасыпалася...* Лынькоў. *—Ну, дык жа яшчэ не ведаеш, які я! — сказаў ён [Міхась] ні к сялу ні к гораду, падхапіўшы Любу на рукі...* Чарнышэвіч. *Гаварушка глядзеў на стол, не мог падняць вачэй: і прыгнаў жа яе [Сароку] чорт ні к сялу ні к гораду.* Лобан. *Дужа мне прыкра, што п. старшына не лічыўся з маёй просьбай і па-свойму папраўляў лірніка, дзе ён рыфмуецца з другім словам. Значыцца, выйшла ні к сялу ні к гораду.* Купала.

**2**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. неадуш. прадмета. Зусім недарэчны. *А то, бывае, ляпнеш што-небудзь, а яно ні к сялу ні к гораду. Сораму тады не абярэшся.* Рунец. *Сёй-той лічыць, што вучоба ва універсітэце мала што дае. Што там быццам бы шмат непатрэбшчыны, якая ні к сялу ні к гораду.* «Вожык».

*СЯМ* ● **С`ЯМ І Т`АМ (Т`АМ І С`ЯМ, С`ЯМ-Т`АМ, Т`АМ-С`ЯМ).** *Акал. Разм.* У некаторых ці ў многіх месцах. **Сін**.: <і> там і тут; не там дык там; то там то сям; то там то тут. *Сям і там асобныя групы нямецкіх аўтаматчыкаў прарываліся праз лінію фронту, і можна было чакаць усякіх неспадзяванак.* Дамашэвіч. *Там і сям снавалі людскія фігуры, як бы не знаходзячы сабе месца.* Чорны. *Бязглузды забабон там-сям яшчэ трывае.* Крапіва.

**ТАМ І СЯМ.** Гл. сям.

**ТО ТАМ ТО СЯМ.** Гл. там.

*СЯМІ* ● **З СЯМІ ПЕЧАЎ ХЛЕБ ЕСЦІ.** Гл. есці.

**НА СЯМІ ВЯТРАХ.** Гл. вятрах.

*СЯМІМІЛЬНЫМІ* ● **СЯМІМІЛЬНЫМІ КРОКАМІ.** Гл. крокамі.

*СЯМЮ* ● **ЗА СЯМЮ ЗАМКАМІ.** Гл. замкамі.

**ЗА СЯМЮ ПЯЧАТКАМІ.** Гл. пячаткамі.

*СЯРЭБРАНАЕ* ● **СЯРЭБРАНАЕ ВЯСЕЛЛЕ.** Гл. вяселле.

*СЯРЭБРАНІКАЎ* ● **ТРЫЦЦАЦЬ СЯРЭБРАНІКАЎ.** Гл. трыццаць.

*СЯРЭДЗІНА* ● **ЗАЛАТ`АЯ СЯР`ЭДЗІНА (СЯР`ЭДЗІНКА).** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Часта неадабр.* **1**. Спосаб паводзін, пры якім пазбягаюць крайнасцей, рызыкоўных рашэнняў. *Спачатку кляўся, што яго хеўра будзе прытрымлівацца «залатой сярэдзіны», арыентуючыся на сваю ўласную «палітычную платформу».* Бажко.

**2**. Прамежкавае становішча. *Вучыўся я не дрэнна, але і не надта*

*добра. Недзе быў у залатой сярэдзіне.* Супрунчук. *Не шукае ніхто больш для шчасця сярэдзінкі той залатой, што дзядам і бацькам была гэтак да густу: каб не посна, не тлуста, абы даў бог лусту...* Жычка. *Як-ніяк калгас займаў залатую сярэдзінку.* Праскураў.

*СЯРЭДЗІНКА* ● **СЯР`ЭДЗІНКА НА ПАЛАВ`ІНКУ.** *Разм. Часцей у знач. вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці неадуш. прадмета. Штосьці сярэдняе паміж чым-н. **Сін**.: з сярэдзінкі на палавінку (у 1 знач.); не бог ведае які; ні богу свечка ні чорту качарга; ні два ні паўтара (у 1 знач.); ні рыба ні мяса; ні сыры ні печаны; ні тое ні сёе (у 1 знач.); ні ў салдаты ні ў матросы; пасаліўшы можна есці; сюды-туды (у 3 знач.); сярэдняй рукі; так сабе (у 3 знач.); чорт не чорт і два не выходзіць. *Не дужа ўдавайся ў святасць, бо лішняга і свінні не ядуць, але лайдаком празмерным не трэба быць, а так сабе: сярэдзінка на палавінку.* Колас. *За час старшынства Наўроцкага і калгас не вельмі выскачыў наперад. Так, сярэдзінка на палавінку.* Чарнышэвіч.

*СЯРЭДЗІНКІ* ● **З СЯР`ЭДЗІНКІ НА ПАЛАВ`ІНКУ.** *Разм.* **1**. *Часцей у знач. вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці канкр. прадмета. Штосьці сярэдняе паміж чым-н. **Сін**.: не бог ведае які; ні богу свечка ні чорту качарга; ні два ні паўтара (у 1 знач.); ні рыба ні мяса; ні сыры ні печаны; ні тое ні сёе (у 1 знач.); ні ў салдаты ні ў матросы; пасаліўшы можна есці; сюды-туды (у 3 знач.); сярэдзінка на палавінку; сярэдняй рукі; так сабе (у 3 знач.); чорт не чорт і два не выходзіць. *Хваліцца не буду — зорак з неба не нахапаў. Так сабе атэстат — з сярэдзінкі на палавінку.* Пянкрат. — *Анціп Партас, — паўтарыў стары. — Не скажу, каб чалавек ён быў дужа добры ці дрэнны. Казаў той: з сярэдзінкі на палавінку.* Сіняўскі.

**2**. *Акал.* Ні дрэнна і ні добра, пасрэдна. **Сін**.: ні тое ні сёе (у 3 знач.); ні туды <і> ні сюды (у 1 знач.); сюды-туды (у 2 знач.); так сабе (у 2 знач.). — *Ну, і як справы?.. — Нічога,.. Так сабе — з сярэдзінкі на палавінку.* Гігевіч.

*СЯРЭДНЯЙ* ● **СЯРЭДНЯЙ РУКІ.** Гл. рукі.

*СЯСТРА* ● **В`АША СЯСТР`А.** *Мн. не ўжыв. Часцей дап. Разм.* Вы і падобныя да вас. Пра жанчын. **Ант**.: ваш брат. *Раней думаць трэба было. А то во бацькам гора. Я вашу сястру добра зведаў.* Асіпенка.

**`ІХНЯЯ СЯСТР`А.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Яны і падобныя да іх жанчыны. **Ант**.: іхні брат. *Вы ж ведаеце, у жанчыны ў хаце заўсёды клопат знойдзецца. А зрэшты я лічу, што іхняй сястры пры мужчынскай размове часам прысутнічаць не абавязкова...* Кудраўцаў.

**Н`АША СЯСТР`А.** *Мн. не ўжыв. Часцей дап. Разм.* Мы і падобныя да нас. Пра жанчын. **Ант**.: наш брат. *[Юля:] Ды гэта што, сцярплю як-небудзь. З нашай сястрой і не тое бывае.* Крапіва. *Цяжкая ў сяле бабская доля. У горадзе нашай сястры вальней дыхаецца.* Шамякін.

**СВ`АЯ СЯСТР`А.** *Мн. не ўжыв. Часцей дап. Разм.* Чалавек, блізкі па поглядах, роўны па становішчы. Пра жанчын. **Ант**.: свой брат. *— Разумныя жанчыны пайшлі цяпер, — засмяяўся Васіль Раманавіч. — Ведаюць, што нашаму брату, мужыку, трэба... — А мы, між іншым, клапаціліся не столькі пра вашага брата, колькі пра сваю сястру.* Новікаў.

*СЯЧЫ* ● **СЯЧЫ ГОРДЗІЕЎ ВУЗЕЛ** <*чаго*>. Гл. секчы.

**СЯЧЫ З ПЛЯЧА.** Гл. секчы.

**СЯЧЫ ПАД КОРАНЬ** *каго, што.* Гл. секчы.

**СЯЧЫ СУК, НА ЯКІМ СЯДЗІШ.** Гл. секчы.

*СЯЧЭ* ● **І СЯЧ`Э І П`АЛІЦЬ.** *Незак.Звычайна ў гэтай форме. Разм. Адабр. і неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ведае, што сказаць, знаходлівы ў размове. **Сін.**: бойкі на язык; востры на язык; не лезе па слова ў кішэню; слова не пазычае. *Эма працягвала: – Бог дае, Бог бярэ. Вам, – зірнула на брата, на Лакотку, – таксама даў і ўзяў, увёў у аўдыторыю і вывеў... – Рэдкая сястра ў цябе: і сячэ і паліць. З ног збіла, на галаву паставіла.* Воранаў. *Ну, а ўдваіх, кажуць, добра і жабраваць пайсці... А калі да таго – Ігнат яшчэ і сячэ і паліць...* Петрашкевіч. *Ты паслухаў бы толькі яе нявестку, як яна і сякець і паліць.* Юрчанка.

## Т

*ТАБАКЕРКІ* ● **ЯК ЧОРТ З ТАБАКЕРКІ.** Гл. чорт.

*ТАБАКІ* ● **НА ПАНЮХ ТАБАКІ.** Гл. панюх.

**НА ТАБЕ ЧОРТ ТАБАКІ.** Гл. чорт.

**НІ ЗА ПАНЮХ ТАБАКІ.** Гл. панюх.

*ТАБАКУ* ● **ТАБАКУ ВАЖЫЦЬ.** Гл. важыць.

*ТАБЕ* ● **ВОСЬ ТАБЕ <БАБКА> І ЮР’ЕЎ ДЗЕНЬ!** Гл. вось.

**ВОСЬ ТАБЕ <І> МАЕШ!** Гл. вось.

**ВОСЬ ТАБЕ І НА!** Гл. вось.

**ВОСЬ ТАБЕ І РАЗ!** Гл. вось.

**НА ТАБЕ.** Гл. на.

**НА ТАБЕ ЧОРТ ТАБАКІ.** Гл. чорт.

*ТАБЛІЦУ* ● **ЯК ТАБЛІЦУ МНОЖАННЯ** *ведаць, запомніць* і пад. *Акал.*

*Разм.* Вельмі добра, цвёрда. **Сін.**: удоўж і ўпоперак (у 2 знач.); як аблупленага; як ойча наш; як свае пяць пальцаў. *Пётр Мікалаевіч школы ў сваім рэгіёне ведае як табліцу множання.* «Настаўн. газ.»

*ТАБОЙ* ● **АЛАХ З ТАБОЙ.** Гл. алах.

**БОГ З ТАБОЙ.** Гл. бог.

*ТАГО* ● **БОЛЬШ ТАГО.** Гл. больш.

**ВЯРНУЦЦА З ТАГО СВЕТУ.** Гл. вярнуцца.

**ВЯРНУЦЬ З ТАГО СВЕТУ** *каго.* Гл. вярнуць.

**ЗАЧЫНІЦЬ ДЗВЕРЫ З ТАГО БОКУ.** Гл. зачыніць.

**З'ЯЎЛЕННЕ З ТАГО СВЕТУ.** Гл. з'яўленне.

**МАЛА ТАГО.** Гл. мала.

**НЕ БЕЗ ТАГ`О (БЕЗ Г`ЭТАГА).** *У знач. сцвярдж. часціцы. Разм.* Відаць, так; здаралася, было такое. *Даніла Шчупак меў ахвоту некалі пaглядзець здароўе конскіх зубоў. Некалі... І цяпер — не без таго...* Баранавых. *Праўда, Чубар таксама перажыў сапраўднае каханне — не без таго, і яму напаткаўся ў жыцці чалавек, які паланіў усяго.* Чыгрынаў. *— За што ж пераводзяць [у іншую школу]? У крамольнікі папаў? — Ну, не без гэтага! — горда пацвердзіў Срэтун-Сурчык.* Колас. *— З жонкай у вас бываюць спрэчкі, сваркі? — Не без гэтага. Але сур'ёзных сварак не здаралася. Мы любім адно аднаго.* «Маладосць».

**НЕ З ТАГО БОКУ.** Гл. боку.

**НЕ З ТАГО ДЗЕСЯТКА.** Гл. дзесятка.

**НЕ З ТАГО КАНЦА.** Гл. канца.

**НЕ НА ТАГО НАПАЎ.** Гл. напаў.

**НЕ НА ТАГО НАРВАЎСЯ.** Гл. нарваўся.

**НІ З ТАГ`О НІ З СЯГ`О.** *Акал. Разм.* Нечакана і невядома чаму, без усякіх прычын. **Сін.**: без дай рады; без нічога ніякага (у 3 знач.); без усякага-якага; за будзь здароў (у 1 знач.); за пусты мех <а ў мяху смех>; за так (у 2 знач.); з ласкі на пацеху; не знай не ведай; ні з чаго ні з якага; ні села ні пала; так сабе (у 1 знач.). *[Старая] ні з таго ні з сяго развязала чыстую белую хустку і пачала частаваць пасажыраў вялікімі чырванабокімі яблыкамі.* Брыль. *— Як стары Перагуд маецца? — ні з таго ні з сяго запытаў Казік.* Грахоўскі. *Ні з таго ні з сяго ўспомнілася адна гісторыя — яшчэ з часоў яе [Кацінага] вучнёўства.* Місько. *Нялоўка ні з таго ні з сяго кідаць работу і там, у горадзе.* Дуброўскі.

**ТАГ`О І ГЛЯДЗ`І.** *Толькі ў гэтай форме. Часцей у знач. пабочн. сл. Разм.* Можа здарыцца (што-н. нечаканае, непрыемнае). **Сін.**: чаго добрага. *Нязручна ж у адзежыне ў хаце сядзець, бо так жа*

*морыць цяпло, аж дрымотна становіцца, таго і глядзі, заснеш.* Лынькоў. *Таго і глядзі — намяце, пазасыпае снегам пуці, прыйдзецца пад раніцу выбірацца з снегаачышчальнікам.* Шынклер. *Шафёр гнаў па лясной дарозе як ашалелы, таго і глядзі, разаб'е.* Шамякін.

*ТАДЫ* ● **ТАДЫ-СЯДЫ.** Гл. сяды.

**ТАДЫ ТОЕ БУДЗЕ.** Гл. тое.

**ТО ТАД`Ы ТО СЯД`Ы.** *Акал. Разм.* Часам, у некаторых выпадках. **Сін**.: другім разам (у 1 знач.); іншы раз; сяды-тады; тыя разы. *[Якім:] Але я неяк усё яшчэ надзеі не трачу, — а ну ж адпусціцца [Паўлінчын бацька]. Быў жа такі час, што мяне любіў, ды нават у бядзе то тады то сяды памагаў.* Купала.

*ТАІЦЬ* ● **НЯМА ЧАГО ГРАХУ ТАІЦЬ.** Гл. няма.

**ЧАГ`О (ШТ`О) ГРАХ`У (ГР`ЭХ, ГРАХ`І) ТА`ІЦЬ.** *У знач. пабочн. сл. Функц. не зам.* Не варта скрываць, трэба прызнацца. **Сін**.: грэшным дзелам; няма чаго граху таіць. *Разам з тым — чаго граху таіць — нідзе так не разлапушылася графаманства, як у літаратуры для дзяцей.* Танк. *Падумаў [Апейка], як гэты заклік падзейнічае на Башлыкова, на многіх раённых кіраўнікоў, якія і цяпер — чаго грэх таіць! — нярэдка дабіваюцца працэнтаў гразьбою ды прымусам!* Мележ. *Ссумаваўся Макар па Запружжы, па маці, па вечарынках ды, што граху таіць, і па Еве.* Асіпенка. *Так, жорсткі час, што грэх таіць.* Колас. *Што грахі таіць, і мы, маладзейшыя, з зайздрасцю пазіралі на новыя, як гаворыцца, з іголачкі, мундзіры, бліскучыя пагоны, рыпучыя рамяні, партупеі, афіцэрскія шаблі і наганы.* Лынькоў.

*ТАК* ● **ВОСЬ ДЫК ТАК!** Гл. вось.

**ДАЎНО Б ТАК.** Гл. даўно.

**ЗА Т`АК.** *Акал. Разм.* **1**. Бясплатна, дарэмна (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін**.: за дзякуй; за прыгожыя вочы; на дурніцу (у 2 знач.). *На станцыі Зіма салодкая чаромха. Смакуй хоць дзень за так, прыгоршчы — на пятак.* Барадулін. *—А што мне за яе [папругу] будзе? —Кніжку дам пачытаць... —Трэба мне твая кніжка, — махнуў рукою Грыша... Не такі ён дурны, каб за так аддаць.* М.Капыловіч.

**2**. Без прычыны, беспадстаўна (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін**.: без дай рады; без нічога ніякага (у 3 знач.); без усякага-якага; за будзь здароў (у 1 знач.); за пусты мех <а ў мяху смех>; з ласкі на пацеху; не знай не ведай; ні з таго ні з сяго; ні з чаго ні з якага; ні села ні пала; так сабе (у 1 знач.). *—А што, і слядоў [ад базы] нікуды няма?.. Нічога няма... —Што ж атрымліваецца... Як жа так?.. Нехта вінаваты, значыць... —Гэта ў чым вінаваты? —А ў тым, што за*

*так укалвалі. Ды і людзей паклалі...* Быкаў. *—Калі мама памерла, яго і пасадзілі. —У турме!.. Пэўна ж, не за так туды садзяць. Што ж ён нарабіў?* Іпатава.

**І ПАРАНАГА І ВАРАНАГА І ТАК КУСКАМІ** *было ў каго, дзе.* Гл. паранага.

**І Т`АК.** *Акал. Разм.* Без таго, без гэтага. *Клімёнку шыбанула ў галаву гарачая хваля. Хацеў спытаць пра гэта ў Бортнікава, але стрымаўся. Той і так настроены кепска, трэба яго супакоіць.* Дамашэвіч. *Промні рынуліся ўслед. Аднак цяпер самалёт было відаць і так — з яго бартоў іравалася полымя.* Карпаў.

**<І> Т`АК І Г`ЭТАК.** *Акал. Разм.* **1**. *Часцей ужыв. пры дзеясл.-вык. незак. тр.* Па-рознаму, усяк, на розны манер. **Сін**.: дзе бокам дзе скокам; <і> так і сяк (у 1 знач.); і так і так (у 1 знач.); то бокам то скокам; то так то гэтак. *Сімон засмяяўся ціхенька сам сабе і зноў паглыбіўся ў свае думкі, мяркуючы і так і гэтак.* Самуйлёнак. *Ведаю, думаю і так і гэтак і пачынаю верыць: не падвядзе Мароз.* Быкаў. *Даводзілася яшчэ і яшчэ праглядаць спіс, вымяркоўваць, кроіць так і гэтак, прыкідваць, як было ў другіх.* Карпаў. *[Сымон] гадае так і гэтак ды глядзіць у гушчарняк, як ваўчок, як той аблетак, ды не вырвецца ніяк.* Колас.

**2**. У любым выпадку, пры любых умовах. **Сін**.: <і> так і сяк (у 2 знач.); і так і так (у 2 знач.); ці так ці гэтак; ці так ці сяк (у 1 знач.); ці так ці так. *На сход пазаўчора прыйшлі ўсе незадаволеныя праведзеным землеўпарадкаваннем, ды яшчэ адзін-другі з тых, каму і так і гэтак добра, але прыйшлі паслухаць, пагаварыць.* Галавач.

**<І> Т`АК І С`ЯК.** *Разм.* **1**. *Акал. Часцей ужыв. пры дзеясл.-вык. незак. тр.* Па-рознаму, усяк, усякімі спосабамі. **Сін**.: дзе бокам дзе скокам; <і> так і гэтак (у 1 знач.); і так і так (у 1 знач.); то бокам то скокам; то так то гэтак. *Кінуўся Жук на дапамогу: і так і сяк казла варушыў, бокам падпіраў, за рогі падымаў — нічога не дапамагае.* Лынькоў. *Кніжкі склаў, а для пенала ў партфелі месца мала. Я ж яго і так і сяк — пхаю рубам, наўскасяк.* Грахоўскі. *Меў Абрам ужо са сто, дзевяноста было Сары, і вы ведаеце што? —У паважнай гэтай пары нарадзіўся сын Ісак. Разважайце так і сяк, ці то дзіва, ці не дзіва, толькі Сара нарадзіла...* Крапіва.

**2**. *Акал.* У любым выпадку, пры любых умовах. **Сін**.: <і> так і гэтак (у 2 знач.); і так і так (у 2 знач.); ці так ці гэтак; ці так ці сяк (у 1 знач.); ці так ці так. *[Новенькі:] Кажуць, што хутка адправяць туды і вас... І сам я з вамі паехаў бы, хлапакі. І так і сяк — няволя да канца вайны, дык лепш ужо, псякрэў, быць там, дзе лепш...*

Брыль.

**3**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці неадуш. прадмета. Не дрэнны, такі, што можна мірыцца. *Пра пераклад кніжкі сказаў, што ён і так і сяк.* «Маладосць».

**І Т`АК І Т`АК.** *Акал. Разм.* **1**. *Часцей ужыв. пры дзеясл-вык. незак. тр.* Па-рознаму, усяк. **Сін**.: дзе бокам дзе скокам; <і> так і гэтак (у 1 знач.); <і> так і сяк (у 1 знач.); то бокам то скокам; то так то гэтак. *Не можа быць, каб я яшчэ не ачуняў. От так, як падумаеш, дык і так і так здаецца.* Чорны.

**2**. У любым-выпадку, пры любых умовах. **Сін**.: <і> так і гэтак (у 2 знач.); <і> так і сяк (у 2 знач.); ці так ці гэтак; ці так ці сяк (у 1 знач.); ці так ці так. *[Поп:] У, вядзьмарка... Яна вам, людзі, накаркае бяду. [Агна:] Бяда і так і так будзе. Чуткі — ідуць войскі з усіх бакоў.* Караткевіч. *[Мікіцёнак:] Я так і думаў — самі ўцякаеце, а мяне пакідаеце. Смерць мая... [Эрых:] Табе і так і так смерць... Раз ты здрадзіў сваім, то і нам здрадзіш...* Кучар.

**КАБ Я <ТАК> ЖЫЎ.** Гл. я.

**НЕ СЯК ДЫК ТАК.** Гл. сяк.

**Т`АК ДЫК Т`АК.** *У знач. часціцы. Разм.* Ладна, няхай будзе гэтак. Ужыв. для выказвання згоды. **Сін**.: куды ні ішло (у 2 знач.); так і быць. *—Яшчэ паглядзім, чый верх будзе!.. Старая костка трывалая!.. —Дый маладая моцная!.. —А ведаеш, так дык так... Толькі не на ролях я пачну з табой дужацца. А на цісках...* Броўка. *Ну, так дык так, думаю, здрок яго забадай. Узялі мы з Аленкаю свае хатулі, падаліся на прыстань.* Кандрусевіч. *Таня сказала: «Давай, Валодзя, застанемся тут. Работы, здаецца, хопіць...» Так дык так, і Валодзя сеў за руль калгаснай аўтамашыны, а Таня пайшла працаваць птушніцай.* Кірэйчык.

**ТАК ЗВАНЫ.** Гл. званы.

**Т`АК І Б`ЫЦЬ.** *У знач. часціцы. Разм.* Ладна, няхай будзе гэтак. Ужыв. для выказвання згоды. **Сін**.: куды ні ішло (у 2 знач.); так дык так. *Ну што з табой зробіш? Так і быць — жыві...* Пестрак. *Так і быць: у бліжэйшы час пад'еду! Сам пагляджу, разбяруся!* Мележ.

**Т`АК І Т`АК.** *Разм.* Ужыв. як уступ пры перадачы чужога ці свайго маўлення. *Неяк вясною завіталі былі госці з Віцебскага тэатра. Узаемны абмен далікатнымі словамі — і за справу: так і так, хочам аднаўляць пастаноўку «У пушчах Палесся».* Лужанін. *Ну, расказваю ёй, так і так, пасылаюць мяне старшынёю ў другі калгас, то што ты мне на гэта скажаш?* Палтаран.

**Т`АК І ТР`ЭБА** *каму. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. гэтага ж і заслугоўвае. *[Мікола:] Але, бядак: два дні сядзеў, зневажалі!*

*[Макрына:] Так і трэба мяцежнікам!..* Галубок. *І зайздросціць будуць! Асабліва гэты задавака Толік! Хай пакусае сябе за локаць! Так яму і трэба!..* Гіль. *Кот не вылазіць з падпечка, залізваючы свой балючы хвост. —Так табе і трэба! — злуе на Капрыза Слаўка і выбягае на вуліцу.* Гардзей.

**Т`АК НА Т`АК.** *Акал. Разм.* **1**. Без даплаты, без прыдачы, рэч за рэч (мяняць, абменьваць і пад.). **Сін**.: баш на баш; вуха на вуха; кон на кон. *Ні адзін не ў пройгрышы, ні другі не ў выйгрышы. Так на так. Ніякі гэта не «чорны рынак», як ён кажа. Гэта называецца ў іх узаемавыручка. Ты мне — я табе.* «Полымя».

**2**. Амаль аднолькава, без прыкметнага выйгрышу, перавагі ў чым-н. (выходзіць, атрымліваецца і пад.). **Сін**.: адно на адно. — *Можа, нам лепей было б, таварыш капітан, рухацца ўначы або на досвітку і надвячоркам?.. —Уначы мы не зможам хутка ехаць, ды і з дарогі лёгка збіцца. —Гэта выйдзе так на так, — адказаў Андрэй. —Бачыце, колькі мы трацім часу на хованкі.* А.Марціновіч. *Замінае тое, Васіль Іванавіч, што на малацэ не разжывешся. І ўдоі ў нас нядрэнныя, а прыбыткі... Амаль так на так зводзім.* Дуброўскі.

**Т`АК САБ`Е.** *Разм.* **1**. *Акал.* Без усякай прычыны, без пэўнага намеру (рабіць што-н.). **Сін**.: без дай рады; без нічога ніякага (у 3 знач.); без усякага-якага; за будзь здароў (у 1 знач.); за пусты мех <а ў мяху смех>; за так (у 2 знач.); з ласкі на пацеху; не знай не ведай; ні з таго ні з сяго; ні з чаго ні з якага; ні села ні пала. *Макарка любіў пазіраць, як імчацца машыны, і часамі, так сабе, жартам, падымаў руку, каб падвезлі яго на машыне.* Колас. *—Чаго смяешся? — пытае жонка. —От, так сабе смяюся, — адказвае мужык.* Ядвігін Ш. *Напад на камендатуру адкладваўся партызанамі не так сабе.* Пальчэўскі.

**2**. *Акал.* Ні добра і ні дрэнна, пасрэдна, сярэдне. **Сін**.: з сярэдзінкі на палавінку (у 2 знач.); ні тое ні сёе (у 3 знач.); ні туды <і> ні сюды (у 1 знач.); сюды-туды (у 2 знач.). *Вінцэнты на погляд здаецца ціхі чалавек... З Бушмарам ён — так сабе, ні вораг, ні прыяцель.* Чорны. *Справа не зусім пэўная, можа лопнуць, і тады для аднаго гэта занадта. Для двух, такіх, як мы з табой, — так сабе, сярэдне...* Самуйлёнак. *Так, жывём патроху... Зарабляем так сабе... Перабоі бываюць з сыравінай.* Палтаран.

**3**. *Вык. і азн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Ні добры і ні дрэнны, сярэдні; такі, што нічым асаблівым не вылучаецца. **Сін**.: з сярэдзінкі на палавінку (у 1 знач.); не бог ведае які; ні богу свечка ні чорту качарга; ні два ні паўтара (у 1 знач.); ні рыба ні мяса; ні сыры ні печаны; ні тое ні сёе (у 1

знач.); ні ў салдаты ні ў матросы; пасаліўшы можна есці; сюды-туды (у 3 знач.); сярэдзінка на палавінку; сярэдняй рукі; чорт не чорт і два не выходзіць. *Сустрэўся нам селянін з возам — от, так сабе чалавек, дзядзька сярэдняга веку.* Гарэцкі. *Калі здарэнне было так сабе, не вельмі што, дык і падхлусіць можна што-небудзь, абы яно яскравей і цікавей выходзіла.* Крапіва. *Хоць гэта і паравоз не паравоз, а так сабе, непаразуменне нейкае, але ўсё ж такі машына, і павінна яна павагу мець і пашану належную.* Лынькоў. *Што ж за яна? Якая з сябе? Чарнявая ці русявая? Прыгожая ці так сабе?» — думаў Аляксей, збіраючыся ў дарогу.* Грахоўскі. *Але ў нас тут... Так сабе лес. Адно схавацца за кустом ад злога вока.* Чыгрынаў. *Зала так сабе, патрабуе рамонту.* Пашкоў.

**Т`АК СКАЗ`АЦЬ.** *У знач. пабочн. сл. Разм.* Калі можна так выказацца. **Сін**.: так бы мовіць. *[Наталля:] Ён, напэўна, лічыць, што паколькі жонка, так сказаць, праведзена загадам і залічана на ўсе віды забеспячэння, дык ніякая гаворка больш не патрэбна.* Крапіва. *[Каравай:] Я дзякую вам за, так сказаць, крытыку і абяцаю пастарацца выправіць мой характар, калі гэта можна ў такім узросце.* Макаёнак.

**ТАК-СЯК.** Гл. сяк.

**ТАК-СЯК НАКАСЯК <АБЫ НЕ ПА-ЛЮДСКУ>.** Гл. сяк.

**Т`АК Т`ОЧНА.** *У знач. слова-ск. Разм.* Менавіта так. Ужыв. як сцвярджальны адказ суразмоўніку. —*А ці паслана разведка? —Так точна! Некалькі гадзін назад адправіліся.* Гурскі. *[Ермашоў:] Значыць, генеральным штурмам пагражаюць? [Кукушкін:] Так точна, таварыш палкоўнік.* Губарэвіч. *[Ягадка:] Сядайце. Старшыня фабрычнага камітэта? [Кічкайла:] Так точна!* Матукоўскі.

**Т`АК ТО <ЯН`О> Т`АК.** *У знач. першай часткі скл-злуч. ск. Разм.* Усё гэта правільна (але...). Гаворыцца ў адказ на словы суразмоўніка. **Сін**.: яно то так. *Рупны бацька давай нагаварваць жонку Красульку: «Прадай,— кажа, — скуру,— сына чалавекам прычакаеш». —Так то так, — кажа Красуля,— для роднага сына і скуры не пашкадую, але хай прыедзе да нас, — глянем на яго...* Ядвігін Ш. *[Сваццяː] Чалавека вам пасватала, куды там, і хатку, і зямельку мае. [Бабка:] Так то яно так, але перашкоды, бачыш, ёсць.* Галубок. —*Маленькія людзі, як вядома, і робяць усе вялікія справы. —Так то яно так, але ўсё ж... Старасць крыху падразае мяне.* Лынькоў.

**Т`АК ЦІ ІН`АКШ (ІН`АЧАЙ).** *Функц. не зам.* **1**. *Акал.* Тым ці іншым спосабам, якім-н. чынам. **Сін**.: не кіем дык палкай (у 2

знач.); не сяк дык так; хоць бокам хоць скокам; хоць так хоць сяк; ці скокам ці бокам; ці так ці сяк (у 2 знач.). —*Карэльчука ў вас не чуваць?.. —Не, не чуваць яго тут, — сказаў Андрэй, — каб быў, то так ці інакш мы ведалі б.* Пестрак. *Усіх прымаў Мінск. Да змучаных людзей так ці іначай вяртаўся сталы хлеб, за ім — блізкая вада, затым — электрычнасць.* Карпаў. *Нельга сказаць, каб ён вельмі цікавіўся жыццём дачкі, але ў тым, што так ці інакш даходзіла да яго, палкоўнік быў суддзя не літасцівы.* Мележ.

**2**. У *знач. злучніка або часціцы.* Нягледзячы ні на якія абставіны; усё ж, усё-такі. **Сін**.: ва ўсякім выпадку (у 3 знач.); ва ўсякім разе (у 3 знач.). *І тут жа паспагадаў ён і тым падарожным, якім так ці іначай прыходзіцца ехаць або ісці ў гэты глухі час ночы па цёмных і гразкіх дарогах, праз брады і грэблі сярод лясоў і балот.* Колас. *Так ці інакш, праз некалькі хвілін мы былі ўжо каля елкі.* Корбан. *Вы хочаце яшчэ ваяваць? Так ці інакш — гэта вам не ўдасца. У армію вы ўжо не вернецеся. Толькі да жонкі, на мыліцах.* Дамашэвіч.

**Т#АК ЦІ С`ЯК (Т`АК ЦІ Т`АК).** *Акал. Разм.* Пры любых абставінах. **Сін**.: ва ўсякім выпадку (у 1 знач.); ва ўсякім разе (у 1 знач.). *Адным словам, дружа, так ці сяк, але вуха будзем трымаць чуйна, а вочы зорка.* Колас. *—Але ж, мамуся, я ўсё гэта ведаю! — Нічога ты не ведаеш!.. Ён напісаў яму распіску на ўвесь маёнтак. Думаў бедны, што так ці так — усё прапала. І вось самога яго расстралялі праз дзень...* Брыль.

**Т`АК ЯГ`О (Я`Е, `ІХ)!** *Выкл. Разм.* Заахвочвальны воклік, з якім звяртаюцца да таго, хто расправаўляецца з кім-н. *[У кабінеце] збіраліся аматары шахмат. Сярод іншых галасоў тады можна было пачуць і голас Іваніцкага: «Так яго, так... Цяпер пешачкай...»* Гігевіч. *Так іх, Міколка, так. Калі дах вось прагніў, перакрыць трэба, дык іх нямашака...* Лынькоў. *—Рукі ўгору, калі хочаш жыць!.. —Так іх! —Во ім! —Малайцы! — закрычалі з розных куткоў вучні.* Жычка.

**Т`АК <ЯН`О> І `ЁСЦЬ.** *У знач. пабочн. сл. Разм.* Сапраўды, няма падстаў сумнявацца. **Сін**.: апроч жартаў; нечага сказаць; нічога не скажаш; няма чаго казаць (у 1 знач.); слоў няма; што <і> казаць; што праўда то праўда. *—Пачакай, можа, варта яшчэ пашукаць нашага чайна? Можа, ён зачапіўся дзе? — сказаў Віктар. —Маё дрэва вышэйшае, я з яго пагляджу. —Дзе там! —Так яно і ёсць! — сказаў Віктар, калі зірнуў зверху.* Маўр. *Снарады пачалі рвацца з вялікім пералётам — гэта азначала, што немцы зноў пойдуць у атаку. Так яно і ёсць: першыя выскачылі аўтаматчыкі, за імі следам паказаліся танкі.* Дамашэвіч. *Так і ёсць, яшчэ адна*

*сустрэча з суседам, ужо з другім.* Кулакоўскі. *У наш клас разам з дырэктарам.. зайшла цётка Матруна. «Так і ёсць: хтосьці нешта адкалоў!» — спалоханым вераб'ём мільганула ў маёй галаве непрыемная здагадка.* Зарэмба.

**ТО Т`АК ТО Г`ЭТАК.** *Акал. Разм.* Па-рознаму, усяк, на розны манер. **Сін**.: дзе бокам дзе скокам; <і> так і гэтак (у 1 знач.); <і> так і сяк (у 1 знач.); і так і так (у 1 знач.); то бокам то скокам. *Сашка ніяк не мог як след злаўчыцца, загадваў мне то так то гэтак павярнуць коней.* Адамовіч. *О, у нас былі з тэлевізара, і мяне два разы здымалі. То так то гэтак павярніся — замучылі, горай, як некалі ў салдатах.* Клебановіч.

**Х`ОЦЬ Т`АК Х`ОЦЬ С`ЯК.** *Акал. Разм.* Тым ці іншым спосабам. **Сін**.: не кіем дык палкай (у 2 знач.); не сяк дык так; так ці інакш (у 2 знач.); хоць бокам хоць скокам; ці скокам ці бокам; ці так ці сяк (у 2 знач.). *Чужынца пасля вайны чамусьці сталі ўжо велічаць «амерыканскім клёнам», а што толку? Заві хоць так хоць сяк — лепшым ад гэтага не стане.* Карпюк.

**ЦІ Т`АК ЦІ Г`ЭТАК.** *Акал. Разм.* У любым выпадку, пры любых умовах. **Сін**.: <і> так і гэтак (у 2 знач.); <і> так і сяк (у 2 знач.); і так і так (у 2 знач.); ці так ці сяк (у 1 знач.); ці так ці так. *—Па-мойму, адно: будзем маўчаць — то, напэўна, прайграем, а станем адбівацца, то хоць прайграем, але не столькі... —А такі прайграем, ці так ці гэтак? — сумеўся Рыгор.* Гартны. *[Мама першая:] Ці так ці гэтак — справа невясёлая. І ўсё ж яшчэ раз з ім пагавару.* Гілевіч.

**ЦІ Т`АК ЦІ С`ЯК.** *Акал. Разм.* **1**. У любым выпадку, пры любых умовах. **Сін**.: <і> так і гэтак (у 2 знач.); <і> так і сяк (у 2 знач.); і так і так (у 2 знач.); ці так ці гэтак; ці так ці так. *Вось жа і я так мяркую, голубе... эге ж! Ці так ці сяк, а жыць нам спакойна не дадуць... Ні ты, ні я аставацца дома не можам.* Колас.

**2**. Тым ці іншым спосабам. **Сін**.: не кіем дык палкай (у 2 знач.); не так дык сяк; так ці інакш (у 1 знач.); хоць бокам хоць скокам; хоць так хоць сяк; ці скокам ці бокам. *—То як жа быць? —спытаў Антоні: —Давай, брат, думаць хоць сягоння ці так ці сяк, каб даць параду і к аднаму ўжо прыйсці ладу раз назаўсёды, аканчальна.* Колас.

**ЦІ Т`АК ЦІ Т`АК.** *Акал. Разм.* У любым выпадку, пры любых умовах. **Сін**.: <і> так і гэтак (у 2 знач.); <і> так і сяк (у 2 знач.); і так і так (у 2 знач.); ці так ці гэтак; ці так ці сяк (у 1 знач.). *Ці так ці так — я неўзабаве жаніцца буду. Ты мне папярок дарогі не стаіш.* Чорны. *Вайна ж некалі скончыцца. Ці так ці так... А Ніна — якраз па табе!* Бондар.

**ЯК БЫ НЕ ТАК!** Гл. як.

**ЯК ЖА ТАК.** Гл. як.

**ЯНО ТО ТАК.** Гл. яно.

*ТАКАМ* ● **З Т`АКАМ** *застававацца, ісці, ехаць* і пад. *Акал. Разм.* Без таго, на што разлічваў, спадзяваўся хто-н., чаго дабіваўся. **Сін**.: без штаноў; з голымі рукамі (у 1 знач.); з носам; ля разбітага карыта; на бабах; ні з чым; нясолана хлябаўшы; перад разбітым карытам; пры пікавых інтарэсах. *—І не гмыкай, Міна Міхайлавіч, бо і з балота не паеду, пакуль згоды тваёй не даб'юся. Што людзям скажу, калі з такам прыеду? Ну, згода? — неадчэпна прыстаў Грабок.* Краўчанка. *—Адбаставаліся... —Чаму ж так?.. З такам засталіся... Бізуном бервяна не перасячэш, — адказаў аброслы барадою рабочы.* Арабей.

*ТАКІ* ● **ТАК`І ДЫ (І) СЯК`І.** *М. і ж., адз. і мн. Азн. Разм.* Выраз, які ўжыв. замест разгорнутай характарыстыкі ці ацэнкі каго-н., звычайна адмоўнай. **Сін**.: сякі-такі (у 3 знач.); сякі-такі нямазаны. *Я павярнуўся ды хацеў ісці, а ён: «Ты што гэта, забыўся, такі ды сякі, як паварочвацца трэба?..»* Крапіва. *Колькі ж адгаварвалі яго людзі (не бяры ты яе — і бедная, і такая і сякая) — не паслухаўся людзей.* Каваль.

**ТАКІ-СЯКІ.** Гл. сякі.

**ТАКІ-СЯКІ НЯМАЗАНЫ.** Гл. сякі.

**ЯК ТАК`І.** *Азн. Кніжн.* Узяты безадносна да чаго-н. іншага. *Ясна, што пісьменніку няма ніякага сэнсу падтрымліваць тое, што павінна знікнуць, і культываваць дыялект як такі.* Крапіва. *[Пілацееў] — дэпутат Дзяржаўнай думы. Як такі, ён лічыць сябе перакананым земцам.* Галавач.

*ТАКІМ* ● **ТАКІМ ЧЫНАМ.** Гл. чынам.

**У ТАКІМ РАЗЕ.** Гл. разе.

*ТАКОГА* ● **НЕ З ТАКОГА ЦЕСТА ЗРОБЛЕНЫ.** Гл. зроблены.

**ПАШУКАЦЬ ТАКОГА.** Гл. пашукаць.

*ТАКОЕ* ● **І ЎСЕ ТАКОЕ.** Гл. усё.

**ЧОРТ ВЕДАЕ ШТО ТАКОЕ!** Гл. чорт.

*ТАКОЙ* ● **ТАКОЙ БЯДЫ.** Гл. бяды.

*ТАКТ* ● **У Т`АКТ** *чаму. Акал. Функц. не зам.* У адпаведнасці з рытмам чаго-н. **Сін**.: у лад (у 1 знач.). *Выразна, часта, але раўнамерна тахкала сэрца паравога млына, і ў такт яму вылятали клубкі дыму з невысокага танклявага коміна.* Крапіва. *Васіль Іванавіч глядзеў на Светліка і ў такт яго словам ківаў галавой.* Лынькоў. *Высокая дуга хісталася ў бакі над узгоркам, а пад дугою, у такт ёй, павольна хісталася ў бакі конская галава.* Галавач.

*ТАЛЕНТ* ● **ЗАКОПВАЦЬ <СВОЙ> ТАЛЕНТ У ЗЯМЛЮ.** Гл. закопваць.

*ТАЛЕРАЧЦЫ* ● **НА ТАЛ`ЕРАЧЦЫ (НА СП`ОДКУ, НА СП`ОДАЧКУ)** *падаваць (падаць), падносіць (паднесці)* і пад. *Акал. Разм. Іран.* З вялікай пашанай і як належнае. *Ты — не бандыт, ты — крот, які капаецца ў сваёй нары. А там — хоць трава не расці! Хай другія прынясуць табе шчасце на талерачцы!..* Мележ. *—Не слухайце яго! — закрычаў Пронька. —Ён баіцца, што пан вернецца ды спытае за дабро, то Паўлюк тады ўсё яму назад аддасць, на талерачцы паднясе.* Каваленка. *Будзь мужчынам!.. Ніхто на сподачку нічога гатовага не паднясе.* Місько. *—Мужчыны, дык вы і мне мо загадаеце ісці біцца з дымаўцамі, а іначай на Прадатках не дасце, — стараецца яна [Аўдоля] гаварыць спакойна. —Мы табе гатовенькае на сподку паднясём, — кпіць Грамабой.* Крапіва. *Ты, ты сам не гаварыў хіба аб роўнасці, аб камунізме, ці мо цябе ашукалі таксама, мо чакаў, што новае жыццё табе на сподачку пададуць.* Галавач.

*ТАЛЕРЦЫ* ● **НЕ Ў СВА`ЁЙ ТАЛ`ЕРЦЫ.** *Вык. і акал. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. У дрэнным, прыгнечаным настроі, у нязвычным стане (быць, бываць). **Сін**.: не ў духу; хмара хмарай. *— Толькі не зважайце на бацькоў, яны, бачыце, не ў сваёй талерцы цяпер, дзікуюць... —А мне то вялікі клопат, я заўсёды ў сваёй талерцы.* Лынькоў. *Ён заўважыў толькі, што Максім Тарасавіч сёння быў не ў сваёй талерцы.* Машара.

**2**. Няёмка, скована, нязручна (адчуваць сябе). *Можа стацца, што пасля сустрэчы з палкоўнікам Аксана, з яго асабістага дазволу, не выйдзе на працу, і Вільгельм разумее, што без яе ён будзе адчуваць сябе ўвесь дзень не ў сваёй талерцы.* Гамолка. *З самай раніцы Макрыда адчувала сябе не ў сваёй талерцы.* Юрчанка. **У СВАЁЙ ТАЛЕРЦЫ.** З супрацьлеглым знач. *Высоцкі дастаткова ведаў службы палка, іх функцыі, ролю, адчуваў сябе ў сваёй талерцы, і ад гэтага было таксама прыемна і хораша.* Навуменка. *Павел Данілавіч быў, відаць, адным з тых людзей, якія ўсюды адчуваюць сябе, як кажуць, у сваёй талерцы.* Васілёнак.

**ФІГА НА ТАЛЕРЦЫ.** Гл. фіга.

**ЯК НА ТАЛ`ЕРЦЫ** *відаць, бачыць* і пад. *Акал. Разм.* Вельмі ясна, выразна. **Сін**.: як на далоні (у 1 знач.). *У яго ваччу ўставалі лавы жытоў, што ўласнаю рукою засее восенню другою на ўласнай гэтай на зямельцы... А ўсё відаць як на талерцы!* Колас. *— А як абстрэл? Мёртвай прасторы няма? —Ды ну! Усё як на талерцы, таварыш камбат. —А яны тут не засякуць вас? З вышыні ж таксама як на талерцы.* Быкаў.

*ТАМ* ● **АДНА НАГА ТУТ, ДРУГАЯ ТАМ.** Гл. нага.

**ВОЗ І ЦЯПЕР ТАМ.** Гл. воз.

*На каго* **ДЗЕ СЯДЗЕШ, ТАМ І ЗЛЕЗЕШ.** Гл. сядзеш.

**ДЗЕ ТАМ!** Гл. дзе.

**<І> Т`АМ І Т`УТ; <І> Т`УТ І Т`АМ.** *Акал. Разм.* У розных месцах, у многіх месцах, усюды. **Сін**.: не там дык там; сям і там; то там то сям; то там то тут. *І там і тут акружаюць вёскі прыветлівыя зялёныя ляскі.* Навуменка. *Жытнія загоны жаўцелі і там і тут, і жнеі па дзве, па тры былі параскіданы па ўсім полі.* Шахавец. *Сярод натоўпу там і тут чырванелі весела сцягі.* Мележ. *Раніцою балота бамбілі, там і тут чуліся глухія падземныя выбухі-ўсхліпы,* Карпаў. *І тут і там тоўпілася мноства народу...* Хацкевіч. *А ў полі.. тут і там заліваліся ахмялелыя ад цяпла і волі жаўрукі.* Сачанка. *Праз кюветы, па калюжынах, праз бетонныя бэлькі, раскіданыя тут і там, брыгада прыйшла на аўтобусны прыпынак.* Грахоўскі.

**КУДЫ ТАМ!** Гл. куды.

**НЕ Т`АМ ДЫК Т`АМ.** *Акал. Разм.* Не ў адным, дык у другім месцы. **Сін**.: <і> там і тут; сям і там; то там то сям; то там то тут. — *Ваюючь!.. Б'юцца... —У-у-у, знайшоў з чаго дзівіцца,— бабка зноў пайшла да печы. —Заўжды ваююць. Не там дык там...* Дудараў.

**СЯМ І ТАМ.** Гл. сям.

**ТАМ І СЯМ.** Гл. сям.

**Т`АМ І Т`АМ.** *Акал. Разм.* У пэўным месцы. Ужыв. замест разгорнутай назвы канкрэтнага месца, дзе хто-н. знаходзіцца, што-н. адбываецца. *Часамі прыходзіцца чужаеда пашпартам надзяляць: «Не падумайце благога, грамадзяне, гэта толькі паасобны бюракрат. Зваць яго так вось і так, а пражывае ён там і там, — можаце самі пераканацца».* Крапіва. *—А дзе браў? —Там і там, кажу, назбіраў за дзень кошык.* Янкоўскі.

**ТАМ-СЯМ.** Гл. сям.

**ТО Т`АМ ТО С`ЯМ.** *Акал. Разм.* У розных месцах; то ў адным, то ў другім месцы. **Сін**.: <і> там і тут; не там дык там; сям і там; то там то тут. *На фронце то там то сям загвалтуе кулямёт і захліпнецца ў злосці адчайнай.* Нікановіч. *То там то сям каля дарогі блішчэлі напоўненыя дажджавой вадой варонкі авіябомб.* Дудо.

**ТО Т`АМ ТО Т`УТ (ТО Т`УТ ТО Т`АМ).** *Акал. Разм.* У розных месцах; то ў адным, то ў другім месцы. **Сін**.: <і> там і тут; не там дык там; сям і там; та там то сям. *То там то тут пачыналіся стыхійныя мітынгі — людзям хацелася нагаварыцца, хацелася, каб пра іх думкі і пачуцці ведалі ўсе.* Грахоўскі. *То там то тут разгараліся жорсткія сутычкі.* Няхай. *Вадзім Мікалаевіч бачыў, як*

*над абшарам балота то тут то там віліся дымы.* Гамолка. *Уздоўж абсаджанай маладымі таполямі вуліцы то тут то там бялеюць новымі цаглянымі сценамі прывабныя дамы.* «Настаўн. газ.»

**ШТО Б ТАМ НІ БЫЛО.** Гл. было.

**ЯК БЫ ТАМ НІ БЫЛО.** Гл. было.

**ЯКІ <ТАМ> ЧОРТ.** Гл. чорт.

*ТАНТАЛАВЫ* ● **ТАНТАЛАВЫ МУКІ.** Гл. мукі.

*ТАНЦА* ● **І ДА Т`АНЦА І ДА РУЖ`АНЦА.** *Акал. Разм.* Па-святочнаму, у вольны ад работы час. *Заўтра пайду на Нямецкую вуліцу і падбяру сабе што людскае, у чым можна было б выйсці і да танца і да ружанца.* Танк.

**НІ ДА Т`АНЦА (-АЎ) НІ ДА РУЖ`АНЦА (-АЎ).** *Вык. ці азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ні на што не здатны, няўмелы. **Сін**.: ні млён ні таўкач. *Іншы на вучобу спецыяліст, іншы вязаць, іншы вышываць, а іншы ні да танца ні да ружанца.* «Полымя». *[Юзюк:] А моладзь, паглядзі, якая пайшла — граматная, вучоная, але ж ні да танцаў ні да ружанцаў.* Цяжкі.

*ТАНЦАВАЦЬ* ● **ТАНЦАВ`АЦЬ АД П`ЕЧЫ (АД П`ЕЧКІ).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачынаць з самага прывычнага, паўтараючы ўсе дзеянні з самага пачатку. *Танцуюць недарэмна ўсё ж ад печы!* Пысін. *—Загадкі прапануеш, інспектар! — Максім усё яшчэ не прымаў сур'ёзна Манегавы словы... —Ты не Дзюба, не танцуй ад печкі.* Шыцік. *Мне, Гарасім Сямёнавіч, здаецца, што я танцую, як кажуць, ад печы... Нешта хочацца знайсці такое... зразумець, чаму ўсё ж дзяўчына вярнулася з горада ў вёску.* Саламаха.

**ТАНЦАВАЦЬ ПАД ДУДКУ** *чыю, каго.* Гл. скакаць.

*ТАПЕЛЕЦ* ● **ЯК (Б`ЫЦЦАМ) ТАП`ЕЛЕЦ ЗА САЛ`ОМІНКУ**. *Акал. Разм.* Як за апошні выратавальны сродак (хапацца, хапіцца, ухапіцца і пад.). *Косцік схапіўся за сваю міжвольную смеласць як тапелец за саломінку. Кожная хвіліна вырашала яго лёс.* Баранавых. *«А чаму, чаму не каго-небудзь, а менавіта мяне вылучылі [на пасаду]?» – ухапіўся быццам тапелец за саломінку за гэтую думку раптам Андрэй.* Сачанка. *Я перадаў прапанову пана Клауса, і Яўген ухапіўся за яе як тапелец за саломінку: «Выдатна! Пайшлі скажам гаспадарам».* Законнікаў. *Канечне, можна хапацца як тапелец за саломінку, спадзявацца, што ўсё абыдзецца, сцерпіцца – злюбіцца, аднак, у рэшце рэшт, мусіць, заўсёды наступае расплата за той падман, за кампраміс з сумленнем...* Блакіт.

*ТАПОР* ● **ЗНАЙШОЎ ТАПОР ПАД ЛАЎКАЙ.** Гл. знайшоў.

**ТАПОР ПАД ЛАЎКАЙ.** Гл. сякера.

**ХОЦЬ ТАПОР ВЕШАЙ.** Гл. вешай.

**ЯК ТАПОР.** Гл. калун.

*ТАПТАННЕ* ● **ТАПТ`АННЕ НА М`ЕСЦЫ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* Адсутнасць развіцця, руху наперад. **Сін**.: бег на месцы. *[Язва:] Пара канчаць гэту камедыю. Іначай будзе таптанне на месцы, чаго глядач цярпець не можа.* Крапіва. *Будзе сізіфава праца, значыць, будзе таптанне на месцы або і горш.* Пестрак. *Такога эмацыянальнага сцвярджэння ў якасці ідэйнай нагрузкі не дастаткова. Гэта ўжо таптанне на месцы. Нарыс траціць сваю баявітасць.* Лобан. *Адна з прычын таптання на месцы калгаса імя Ільіча — несумленнасць некаторых яго спецыялістаў.* «Звязда». *Гонар, таптанне на месцы — першая прыкмета зараджэння кансерватызму, спаду.* Далідовіч.

**ТАПТАННЕ Ў ГРАЗЬ** *каго, чаго.* Гл. утоптванне.

*ТАПТАЦЦА* ● **ТАПТ`АЦЦА НА <АДН`ЫМ> М`ЕСЦЫ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Не рухацца наперад, не развівацца, не ўдасканальвацца. **Сін**.: стаяць на <адным> месцы. *Ну, будзе аварыя на станцыі, ну, можа, нават узарвём машыны. То не пройдзе і паўгода, як яны паставяць новыя... А от каб кіраваць імі пачалі дрэнна, яны б тапталіся на адным месцы. За добрых кіраўнікоў іхніх, можа быць, прыйдзецца ўзяцца.* Чорны. *Чалавецтва.. часцей за ўсё ахвотней топчацца на адным месцы, а не ідзе наперад.* Галавач. *Большасць з названых мною драматургаў працавала ў мінулым годзе над новымі п'есамі, але яны занадта доўга топчуцца на месцы перад тым, як зрабіць новы творчы крок.* Крапіва. *Жывёлагадоўля, як прынята гаварыць у такіх выпадках, тапталася на месцы.* Праскураў.

**ТАПТ`АЦЦА Ў ГР`АЗЬ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Усяляк прыніжацца, знеслаўляцца, зневажацца. *У краіне, дзе верхаводзяць «праваслаўныя атэісты», тысячагадовыя традыцыі мудрых продкаў топчуцца ў гразь.* «Полымя».

*ТАПТАЦЬ* ● **ТАПТ`АЦЬ ПАД Н`ОГІ** *што. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адкідваць як непрымальнае, не лічыцца з чым-н., не надаваць значэння чаму-н. *Жонкай вясковыя жанкі ўпікалі Анікея часта, але ўсё, што яму гаварылі, ён таптаў под ногі.* Навуменка.

**ТАПТ`АЦЬ (УТ`ОПТВАЦЬ) У ГР`АЗЬ** *каго, што. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Усяляк чарніць, прыніжаць, знеслаўляць каго-, што-н., зневажальна

адзывацца, несправядліва абвінавачваючы. **Сін**.: абліваць граззю *каго, што*; вешаць сабак *на каго, на што*; выліваць памыі *на каго*; выліваць бруд на галаву *каго*; закідваць граззю *каго*; кідацца граззю; кідаць каменем *у каго*; кідаць цень *на каго, на што* (у 1 знач.); ліць бруд *на каго*; мазаць дзёгцем *каго, што*; мяшаць з граззю *каго, што*; мяшаць з зямлёй (у 3 знач.); наводзіць цень *на каго, на што*; падтоптваць пад ногі (у 2 знач.). *Давай дружбу нашу дайнюю ў гразь не таптаць...* Кавалёў. *Як з «хама-мужыка» ў палацах умела панства пасмяяцца! Як твае думы, тваё слова ў гразь таптала адмыслова!* Свірка. *Касцюшка яго разумее: хоча апраўдаць свой гонар Майсей, які жонка ўтоптвае ў гразь.* Навуменка. **УТАПТАЦЬ У ГРАЗЬ** *каго, што. Зак. Тут ён [Чыкілевіч] падышоў да самага кульмінацыйнага пункту ў сваім паведамленні, каб выкарыстаць яго належным парадкам і ўтаптаць у гразь свайго заклятага ворага, а разам з гэтым і тую справу, з-за якой і загарэўся свет.* Колас. *Светлыя мары аб волі пан Жардзецкі груба, бесчалавечна ўтаптаў у гразь.* Якімовіч. *Я.. ведала, што можна ўзнесці да неба. Можна і ў гразь утаптаць, знішчыць, забіць. Словам.* Васілевіч.

*ТАРМАЗАХ* ● **СПУСКАЦЬ НА ТАРМАЗАХ** *што.* Гл. спускаць.

*ТАРМАЗЫ* ● **ТАРМАЗ`Ы АДК`АЗВАЮЦЬ (АДКАЗ`АЛІ)** *у каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. страчвае кантроль над сваімі дзеяннямі, учынкамі. *Мабыць, многія чулі, як юнак, які зрабіў нешта кепскае, апраўдваецца: «Адказалі тармазы... Быў п’яны».* «Маладосць». *Як адзіны ў «белавежскім» асяроддзі інтэлігенцкі сын, адрозніваўся ён [Юрка Геніюш] начытанасцю і асабістай культурай (тармазы адказвалі ў яго, калі напіўся з хамцамі).* Яновіч.

*ТАРТАРАРЫ* ● **ПАЛЯЦЕЦЬ У ТАРТАРАРЫ.** Гл. паляцець.

*ТАРЫ* ● **РАЗВОДЗІЦЬ ТАРЫ-БАРЫ.** Гл. разводзіць.

**Т`АРЫ-Б`АРЫ <РАСТАБ`АРЫ>.** *Праст. Неадабр.* **1**. *У ролі розных чл. ск.* Пустая размова, балбатня. **Сін**.: пераліванне з пустога ў парожняе (у 2 знач.); часанне языка. *Здавалася, што магло прасцей быць, як забраць Зазыбу ды рушыць да мястэчка; а тут пачынаюць тары-бары... Маўляў, чаму, навошта?* Чыгрынаў. *Штыкет з усёмагчымай тары, дзе пільнасць слоў: «Не кантаваць!», пад ранішнія тары-бары яшчэ трывае бытаваць.* Барадулін. *Калач выпіў шклянку самагонкі, паслухаў «тары-бары».* Шамякін.

**2**. *У знач. вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пустаслівіць, займацца балбатнёй. **Сін**.: араць дарогі; біць язык аб зубы (у 2 знач.); блынды правіць; гарадзіць плот <*каму*>; званіць у <разбіты>

лапаць; круціць вала <за хвост> (у 2 знач.); ліць ваду; мазоліць язык; малоць языком (у 1 знач.); малоць не падсяваючы; мянціць языком; пераліваць з пустога у парожняе (у 2 знач.); плесці кашалі <*каму, пра каго, пра што*>; плесці кашалі з лапцямі; плесці лапці; пляскаць языком; разводзіць антымоніі; разводзіць тары-бары; таўчы ваду ў ступе (у 2 знач.); тачыць лясы <*з кім*>; травіць баланду (у 1 знач.); трапаць языком; часаць язык (у 1 знач.); часаць языком. *Відаць, патрэбен быў кадр: Пятручык і Крэкацень каля агню — тары-бары растабары... Абы каб відаць было, што губы варушацца.* Місько.

*ТАЎКАЧ* ● **НІ МЛЁН НІ ТАЎКАЧ.** Гл. млён.

**ТАЎК`АЧ МУК`У ПАК`АЖА!** *Выкл. Разм. Іран.* Вокліч недаверу да пачутага ад суразмоўніка. *«Як жа вам бачыцца магчлівае развіццё падзей? Пры ўмове, што савецкая армія будзе нарошчваць свой поспех?» Сабалеўскі скрушліва паціснуў плячыма, але разгубленасці ў яго не было: – Таўкач муку пакажа!* Якавенка. [Насовіч, с. 162: *таўкач муку пакажа.*]

*ТАЎЧЫ* ● **ТАЎЧ`Ы ВАД`У Ў СТ`УПЕ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. Са знач. асобы. **1**. Займацца бескарысная, безвыніковай справай; марна траціць час. **Сін**.: гуляць у бірулькі; насіць ваду рэшатам; пераліваць з пустога ў парожняе (у 1 знач.). *На чорта мне такая работа, што не дае карысці ні мне, ні людзям? Не хачу таўчы ваду ў ступе.* Макаёнак. *[Гофман:] Толькі вы чамусьці зацягваеце. [Троцкі:] А вы чамусьці спяшаецеся. [Гофман:] Мы пяты дзень таўчом ваду ў ступе.* Губарэвіч.

**2**. Весці пустыя размовы, займацца балбатнёй, пустасловіць. **Сін**.: араць дарогі; біць язык аб зубы (у 2 знач.); блынды правіць; гарадзіць плот <*каму*>; званіць у <разбіты> лапаць; круціць вала <за хвост> (у 2 знач.); ліць ваду; мазоліць язык; малоць языком (у 1 знач.); малоць не падсяваючы; мянціць языком; пераліваць з пустога ў парожняе (у 2 знач.); плесці кашалі *каму, пра каго, пра што*; плесці кашалі з лапцямі; плесці лапці; пляскаць языком; разводзіць антымоніі; разводзіць тары-бары; тары-бары <растабары> (у 2 знач.); тачыць лясы <*з кім*>; травіць баланду (у 1 знач.); трапаць языком; часаць язык (у 1 знач.); часаць языком. *Ну, ты скажаш! Лепш маўчы, ваду ў ступе не таўчы.* Колас. А *што ты там бачыў, на сходах гэтых самых? Ваду ў ступе таўкуць? Таўкуць. Тры бочкі нагавораць? Нагавораць.* Лынькоў. *А бацьку нашаму.. смыліць язык, пахваліцца хоча, што не такі ён, як іншыя. Вось і таўчэ ваду ў ступе.* Кандрусевіч.

**ТАЎЧ`Ы М`АК.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн., выраж. наз. *камары, мошкі* і пад. Мітусіцца ў паветры плоймай, клубком.

*Раўнаважна каля паветкі, пад водбліск асядаючай зарніцы, камары таўклі мак. То ўверх, то ўніз... і зноў — то ўверх, то ўніз падымаліся камары, бэрсаліся, кідаліся гуртам, клубком, звінелі аднастайна...* Баранавых. *Было загадкай неба хлапчуку, канчалася яно за дальнім хлевам, дзе камары пад вечар мак таўкуць...* Барадулін. *На ўзроўні галавы, перад носам, таўчэ мак машкара.* Ракітны. *А над стаўком таўчэ мак камашня, таксама зусім залатая ад сонца.* Караткевіч. *Стала шарэць, і ля дуплаватых старых бяроз, што абступілі ў лесе з двух бакоў дарогу, таўкла мак машка.* Пташнікаў.

*ТАЧЫЦЬ* ● **ТАЧЫЦЬ ЗУБЫ.** Гл. вастрыць.

**ТАЧ`ЫЦЬ Л`ЯСЫ (БАЛ`ЯСЫ)** <з *кім*>. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Займацца пустымі размовамі, пустаслоўіць. **Сін**.: араць дарогі; біць язык аб зубы (у 2 знач.); блынды правіць; гарадзіць плот <*каму*>; званіць у <разбіты> лапаць; круціць вала <за хвост> (у 2 знач.); ліць ваду; мазоліць язык; малоць языком (у 1 знач.); малоць не падсяваючы; мянціць языком; пераліваць з пустога ў парожняе (у 2 знач.); плесці кашалі <*каму, пра каго, пра што*>; плесці кашалі з лапцямі; плесці лапці; пляскаць языком; разводзіць антымоніі; разводзіць тары-бары; тары-бары <растабары> (у 2 знач.); таўчы ваду ў ступе (у 2 знач.); травіць баланду (у 1 знач.); трапаць языком; часаць язык (у 1 знач.); часаць языком. *—Што ты з ім лясы точыш, з грубіянам гэтакім? — накінулася на сяброўку тая, што ляжала на ложку.* Мік. Ткачоў. *[Бабулі] няма чаго з намі тачыць лясы — трэба бульбу перабраць: што варыць, што на насенне.* Сяркоў. *[Дораш:] Гэй, старая, чаго стаіш, балясы точыш?* Міровіч. *Мы — сыны працоўных класаў, узышлі ўжо на арэну... Ды нашто тачыць балясы, словы траціць надарэмна?* Глебка.

**ТАЧЫЦЬ НОЖ** *на каго.* Гл. вастрыць.

**ТАЧЫЦЬ ЯЗЫК.** Гл. вастрыць.

*ТВАЁ* ● **ТВА`Ё БЯР`Э (УЗЯЛ`О, В`ОЗЬМЕ).** *У знач. асаб. ск. Разм.* Ты перамагаеш; выходзіць што-н. па-твойму. Выказванне прызнання суразмоўцавай перамогі. *— Я вельмі рада. — Чаго? — Што наша ўзяло. — Наша ўзяло, а тваё-то яшчэ невядома. — Калі наша, то і маё.* Крапіва. *Ну цяпер — гуляй, бедната! Тваё пачынае браць…* Чарот. *Усё. Цяпер ён адзін-адзінюткі перад ворагам, перад каварным Цынгерам. «Тваё ўзяло? Не-е-е, ніколечкі…»* Лобан.

*ТВАІМІ* ● **ТВАІМІ ВУСНАМІ МЁД ПІЦЬ!** Гл. піць.

**ТВАІМІ МАЛІТВАМІ.** Гл. малітвамі.

*ТВАІХ* ● **ДА ТВАІХ ПАСЛУГ.** Гл. паслуг.
*ТВАР* ● **ГЛЯДЗЕЦЬ СМЕРЦІ Ў ТВАР.** Гл. глядзець.

**КІДАЦЬ У ТВАР** *каму, каго што.* Гл. кідаць.

**КРОЎ КІНУЛАСЯ Ў ТВАР** *каму, каго.* Гл. кроў.

*Быць, здавацца* **НА АДЗ`ІН ТВ`АР.** *Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Так падобны адзін на аднаго, што не адрозніш. **Сін**.: волас у волас <голас у голас; <і> крошкі пабраў *чые, каго, у каго, з каго. Усе яны [мужыкі] у месячным святле былі на адзін твар: як быццам сама гэта зямля адначасова нарадзіла іх.* Караткевіч. *Усе півоні, іх бясконцае мноства, былі на адзін твар.* Мальдзіс. *У маладых часта паэзія на адзін твар.* Барадулін. *Чамусьці раней Асавік не думаў пра вышэйшых камандзіраў як пра людзей. Яны яму здаваліся ўсе на адзін твар, пазбаўленыя свайго асабістага жыцця, а занятыя толькі сваёй службай, кар'ерай, новымі зоркамі.* Дамашэвіч.

**ПЛЮНУЦЬ У ТВАР** *каму.* Гл. плюнуць.

**ТВАРАМ У ТВАР.** Гл. тварам.

**ТВ`АР ВЫЦ`ЯГВАЕЦЦА (В`ЫЦЯГНУЎСЯ)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. вельмі здзіўлены, расчараваны і пад. *—Гэт-та што... яшчэ... такое? — выцягнуўся ў мамы твар. —Кінь!!! Зараз жа кінь! — тузанула яна за вуха кошку з Марыніных рук.* Міська. *Той, хто купляў білеты, схаваўся за нечую шырокую спіну. Весялосць прапала адразу. У нас і праважатых выцягнуліся твары.* Грахоўскі. *—Слухай, а што гэта? — Косця паказвае чарцяжы. Расказваю. У хлопцаў выцягваюцца твары.* Карпюк.

**ТВ`АР (ТВ`АРАМ) У ТВ`АР.** *Акал. Разм.* **1**. Вельмі блізка адзін ад другога (сутыкацца, сустракацца, стаяць, сядзець і пад.). **Сін**.: вочы ў вочы (у 1 знач.); грудзі ў грудзі; лоб у лоб; носам у нос; нос у нос. *Васіль ад неспадзеўкі аж пахаладзеў: больш за ўсё не хацеў, баяўся сустрэцца з Грыбком, і на табе — твар у твар!* Мележ. *Вяртаючыся ад Івана сінім зімовым прыцемкам, Васіль твар у твар сутыкаецца з Надзяй.* Навуменка. *Сотнікаў з натугай павярнуў галаву і апынуўся твар у твар з канваірам.* Быкаў. *Максім узяў яе за руку, пасадзіў на канапу, сам сеў на крэсла насупраць, тварам у твар, як урач каля хворай.* Шамякін. *Лейтэнант прыспешана выйшаў з-за павароткі і тварам у твар спаткаўся з Дзюбіным.* Быкаў.

**2**. Непасрэдна (сутыкацца, стаяць і пад.). **Сін**.: тварам да твару (у 2 знач.). *[Маці] кідалася ад стала да парога і, нема галосячы, ірвала жменямі валасы. Адна, твар у твар са сваім неабдымным горам...* Брыль. *Сустрэўшыся твар у твар са смерцю, ён раптам адкрывае*

*для сябе, што ўсе яго нават самыя высокія і вялікія думкі і справы — нішто ў параўнанні з чалавекам, да якога прыйшла гэта халодная і незразумелая смерць.* Кудравец. *Меншавікі апынуліся тварам у твар перад грознай для іх небяспекай.* Самуйлёнак. *Дзесьці стаіць фронт, там — тварам у твар дзве арміі. Мы дапамагаем сваёй у тыле працўніка.* Карпюк.

**У ТВАР** *ведаць, знаць. Акал. Функц. не зам.* Паводле знешняга выгляду. *Нават калі неўзабаве пачуўся лёскат кол, дык гэта яго [Уладзіка] не вельмі ўстурбавала: ведаў што ў гэтай мясцовасці яго ў твар ніхто не знае.* Крапіва.

**У ТВАР** *гаварыць, пытацца* і пад. *Акал. Функц. не зам.* Адкрыта, у прысутнасці каго-н. **Сін**.: адкрытым тэкстам; ва ўпор (у 2 знач.); вочы ў вочы (у 2 знач.); у адкрытую *казаць*; у вочы *казаць*; у лоб (у 2 знач.). **Ант**.: за вочы (у 1 знач.). *Прэч, лайдак, пся крэў... Хто цябе сюды клікаў! — прашыпеў ксёндз проста яму ў твар.* Чарнышэвіч. *Часам ён [Кандрат] увогуле траціў уладу над сабой і тады ўжо не за вочы, а ў твар гаварыў шмат чаго непрыемнага.* Праскураў.

*ТВАРАМ* ● **НЕ ЎДАРЫЦЬ ТВАРАМ У ГРАЗЬ.** Гл. ударыць.

**ПАВАРОЧВАЦЦА ТВАРАМ** *да каго, да чаго.* Гл. паварочвацца.

**ПАВАРОЧВАЦЬ ТВАРАМ** *каго, што да чаго.* Гл. паварочваць.

**ПАДАЦЬ <ТВАРАМ> У ГРАЗЬ.** Гл. падаць.

**П`ЕРАД ТВ`АРАМ.** *Акал. Функц. не зам.* **1**. *каго.* Непасрэдна перад кім-н., у прысутнасці каго-н. *Перад тварам таварышаў урачыста клянуся, што зусім дабравольна ўступіў у рады падпольнай камсамольскай арганізацыі і стаў на шлях барацьбы з фашызмам.* Беркутаў.

**2**. *чаго.* Непасрэдна перад надыходам, набліжэннем чаго-н. *«Няма такога чалавека, які не адступіў бы перад тварам смерці, — разважаў ён [Візэнер]. —Сіла вырашае ўсё...»* Шамякін. *Альшэўскі, апынуўшыся перад тварам гэтых падзей, мог зразумець, што значыць у палітыцы палітычны вопыт, прафесіяналізм.* Калеснік.

**ПЛЯСНУЦЦА <ТВАРАМ> У ЛУЖЫНУ.** Гл. пляснуцца.

**ТВ`АРАМ ДА ТВ`АРУ.** *Акал. Разм.* **1**. Вельмі блізка адзін ад другога (сутыкацца, сустракацца, стаяць і пад.). **Сін**.: вочы ў вочы (у 1 знач.); грудзі ў грудзі; лоб у лоб; носам к носу; носам у нос; нос у нос; твар у твар (у 1 знач.). *Тады ён [Рыгор] прарэзаў сцяну людзей і тварам да твару стрэўся з гарадавым.* Гартны. *Мы з немцамі стаім да твару тварам, а выйсці нельга: страшныя турысты!* Панчанка.

**2**. Непасрэдна (сутыкацца, ставіць і пад.). **Сін**.: твар у твар (у 2 знач.). *Фёдар з гітлераўцамі тварам да твару сутыкнуўся яшчэ не*

*скора.* «Звязда».

**ТВ`АРАМ У ТВ`АР.** Гл. твар.

*ТВАРУ* ● **ДА ТВ`АРУ** *каму. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн., які абазначае назвы адзення, матэрыялу для адзення і пад. Ідзе, падыходзіць каму-н. *Сіняя крамная сукенка і русыя, ледзь кучаравыя валасы ёй [дзяўчыне] вельмі да твару.* Крапіва. *[Сястра] мерае матэрыял, прыкладвае яго да сябе — ці ён ёй да твару. Да твару... Вядома, да твару.* Арабей. *Не да твару, браце, нам такая шапка... У такіх шапках, браце, ходзяць толькі буржуйскія дзеці...* Лынькоў.

**2**. Ужыв. пры дзейн., выраж. наз. з абстр. знач. ці дзеясл. словазлучэннем. Падыходзіць каму-н., адпавядае чыйму-н. становішчу. *Бандароўне больш да твару — чымся ты — магіла.* Купала. *—Ну, як так, то нам да твару праца ў лазні, — кажа дзед.* Астрэйка. *Ну, хіба ж да твару шляхціцу насіць, скажам, такое прозвішча, як Лопух?* Пестрак. *[Каржакевіч] рашыў, што яму выстаўляць сябе бязбожнікам зусім не да твару.* Крапіва.

**КРОЎ ПРЫЛІВАЕ ДА ТВАРУ** *чыйго, каму.* Гл. кроў

**СПАДАЦЬ З ТВАРУ.** Гл. спадаць.

**СЦІРАЦЬ З ТВАРУ ЗЯМЛІ.** Гл. сціраць.

**ТВАРАМ ДА ТВАРУ.** Гл. тварам.

**ТВАРУ НЯМА** *на кім.* Гл. няма.

**У ПОЦЕ ТВАРУ.** Гл. поце.

**У ПОЦЕ ТВАРУ СВАЙГО.** Гл. поце.

*ТВАРЫ* ● **БЕЗ КРЫВІНКІ Ў ТВАРЫ.** Гл. крывінкі.

**НАПІСАНА НА ТВАРЫ** *каго, у каго, чыім.* Гл. напісана.

**НІ КРЫВІНКІ Ў ТВАРЫ** *ў каго.* Гл. крывінкі.

*ТВОЙ* ● **ТВОЙ БРАТ.** Гл. брат.

**ТВОЙ ПАКОРНЫ СЛУГА.** Гл. слуга

*ТКНУЦЬ* ● **ТКНУЦЬ ПАЛЬЦАМ** *на каго, на што.* Гл. тыкаць.

**ТКН`УЦЬ (ПАТКН`УЦЬ) <СВ`ОЙ> Н`ОС** *куды. Зак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Умяшацца ў што-н. **Сін**.: соваць <свой> нос *куды, у што*; тыцкаць нос *куды, у што. [Лютынскі:] Узяць хоць бы справу з Далеўскім. Не дагледзеў, прызнаюся. Сам не ткнуў носа, даверыўся спецу, а ён мне чапухі нарабіў.* Крапіва.

**2**. Праявіць цікавасць да чаго-н., заглянуўшы куды-н. *І якая гэта схованка — гумно? Усякі дурань першым дзелам паткне туды свой нос.* Колас. *Так вось кожную зіму штодня ездзіць у школу, усім цікавіцца, усюды нос свой паткне Алеська.* Шынклер.

**3**. Паказацца дзе-н. *Помню, я жаніўся. Добры быў мой сват. К дзеўцы нос паткнулі — «Асадзі назад!».* Колас. *Ведама, аказалася такая цана білетам, што нам.., на[ва]т грэшна туды свой нос*

*ткнуць.* Цётка.

*ТЛЕЕ* ● **НІ ГАРЫЦЬ НІ ТЛЕЕ.** Гл. гарыць.

*ТЛУМІЦЦА* ● **ГАЛАВА ТЛУМІЦЦА** *чыя, каго чым, кім.* Гл. галава.

*ТЛУМІЦЬ* ● **ТЛУМІЦЬ ГАЛАВУ** *каму.* Гл. дурыць.

**ТЛУМІЦЬ САБЕ ГАЛАВУ** *каму.* Гл. дурыць.

*ТЛУМЛЕННЕ* ● **ТЛУМЛЕ́ННЕ ГАЛАВЫ** *каго. Мн. не ўжыв. Дзейн. і дап. Разм. Неадабр.* Адурманьванне, знарочысты падман каго-н. *У сувязі з тлумленнем галоў маладых успамінаю параўнальна нядаўняе інтэрв'ю як быццам лепшай цырульніцы Расіі Далорэс Кандрашовай...* «Полымя».

*ТЛУСТЫ* ● **ТЛУСТЫ КАВАЛАК.** Гл. кавалак.

*ТО* ● **І Т`О.** *Разм.* **1**. У *знач. узмацн. часціцы (ставіцца пасля слова, да якога адносіцца).* Нават. *[Антаніна Пятроўна:] У цябе талеркі і то ляцяць з рук, а аўтамабільныя дэталі гэта табе не талеркі.* Крапіва. *Клопатаў было па вушы. Толькі пагрузіцца — і то колькі трэба часу, колькі трэба патраціць нерваў.* Дамашэвіч.

**2**. У *знач. супастаўляльнага злучніка.* Але, аднак. *Перадай таксама, што з арганізацыі возьмем не больш двух камуністаў. І то толькі, каб змацаваць ініцыятыўную групу.* Карпаў.

**ТАК ТО <ЯНО> ТАК.** Гл. так.

*ТОЕ* ● **БОЛЬШ ЗА ТОЕ.** Гл. больш.

**<І> СЁЕ І ТОЕ.** Гл. сёе.

*Калі* **НА ТОЕ ПАЙШЛО.** Гл. пайшло.

**НЕ ТУДЫ ТО́Е**. *У безас. ужыв. Разм.* Дарэмна; не тое, на што хто-н. разлічваў. Пра неапраўданыя надзеі, разлікі, спадзяванні. **Сін**.: не туды хата; не тут тое было. *Як толькі я напомніў, што трэба чыгуначнікам падабраць снарады – сам жа гаварыў, што яны без узрывацеляў, – дык не туды тое, прыкрываецца тым, што гэта не яго службовы абавязак.* Машара. *«Дазнанні» – кніга глыбока рытарычная, палемічная. І аргументацыя адпаведная. Купала. Дзяржынскі. Быкаў. Пушкін. Што гэта? Уласныя імёны? Не туды тое! Гэта імёны агульныя...* «ЛіМ».

**НЕ Т`УТ Т`ОЕ (ТО) БЫЛ`О.** *У безас. ужыв. Разм.* Дарэмна; не тое, на што хто-н. разлічваў. Пра неапраўданыя надзеі, разлікі, меркаванні. **Сін**.: не туды тое; не туды хата. *Ворагі спадзяваліся, што ў гэтым глухім, на іх думку, гарадку.. яны не толькі не сутыкнуцца з пратэстам мясцовага насельніцтва — муха не асмеліцца загусці ў прысутнасці «салдата фюрэра». Ды не тут тое было!* «Вожык». *Вясна, вясна. Але не тут то было. Адкуль ні вазьміся — дыхне сіберны вецер, узніме ў паветра снежныя хмары, — зіма дый годзе.* Сіняўскі.

**НІ КАЛ`І <Т`ОЕ> БЫЛ`О НІ КАЛ`І Б`УДЗЕ.** *Выкл. Разм.* Такое не часта бывае, здараецца. Пра які-н. рэдкі выпадак. *Кума дастала каўбасы і сала, то няхай бог дасць здароўе. А я сам селядцоў прынёс. Налівай, кумок. Як той казаў, ні калі было ні калі будзе.* Чорны. *Адзначым дзень нашай свабоды! Ні калі тое было ні калі будзе! Салют!* Дамашэвіч. *Для дарагіх госцейкаў нічога не шкада! Ні калі было ні калі будзе...* Кудраўцаў.

**НІ Т`ОЕ НІ С`ЁЕ.** *Разм.* **1**. *Вык. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці канкр. прадмета. Такі, што цяжка сказаць, кім ці чым ён з'яўляецца. **Сін**.: з сярэдзінкі на палавінку (у 1 знач.); не бог ведае які; ні богу свечка ні чорту качарга; ні два ні паўтара (у 1 знач.); ні рыба ні мяса; ні сыры ні печаны; пасаліўшы можна есці; сюды-туды (у 3 знач.); сярэдзінка на палавінку; сярэдняй рукі; так сабе (у 3 знач.); чорт не чорт і два не выходзіць. *[Сваццяː] Меншавік — гэта значыцца, ні тое ні сёе, меншавік — ён і нашым і вашым, у яго сярэдзіны няма.* Галубок. *Будзеш ні тое ні сёе: ні сабе карысці, ні людзям.* Гарбук. *Звычайна па карэнні першых баравікоў Грышка намячаў, будзе лета грыбное ці не, а тут адзін добры, другі чарвівы — ні тое ні сёе.* Рубанаў.

**2**. *Акал.* Няпэўна, неакрэслена (адказваць, гаварыць, пісаць і пад.). *А нашы адказвалі ні тое ні сёе: «У лесе добра, але можна і загінуць ад холаду ды голаду».* Якімовіч. *[Косця:] Напісаў бы проста — кахаю! Было б ясна. А то ні тое ні сёе... Развёў нейкую філасофію, а цяпер скачаш.* Карпюк.

**3**. *Акал. ці ў безас. ужыв.* Пасрэдна, ні добра і ні дрэнна (адпачываць, адчуваць сябе і пад.). **Сін**.: з сярэдзінкі на палавінку (у 2 знач.); ні туды <і> ні сюды (у 1 знач.); сюды-туды (у 2 знач.); так сабе (у 2 знач.). *[Максім:] Мне пасля ўчарашняга неяк ні сёе ні тое. Адным словам, праўду сваццi скажу: залішне выпіў.* Купала. *—Ну, а ты як прагуляў пабыўку? —Эт, ні тое ні сёе... а ўсё ж такі крыху спачыў...* Гартны.

**ТАД`Ы Т`ОЕ Б`УДЗЕ.** *У безас. ужыв. Разм.* Цяпер няма патрэбы гаварыць, разважаць, клапаціцца пра што-н. *[Аўдоцця:] Да цябе нейкі брыгадзір дабіваецца аж з другога раёна... Распытваў пра цябе ў старшыні. Казаў — у сваты прыедзе. [Насця:] Тады тое будзе.* Крапіва. *—Ну, а як пастарэеш, хто цябе тады дагледзіць? — Тады тое будзе.* Чорны.

**ТОЕ ДЫ СЁЕ.** Гл. сёе.

<u>*Пакуль*</u> **Т`ОЕ ДЫ С`ЁЕ (С`ЁЕ ДЫ Т`ОЕ).** *У знач. дзеясл. вык. Разм.* (Пакуль) што-н. адбываецца, робіцца і пад. **Сін**.: *пакуль* суд ды справа. *У гэтую пару года дні вельмі кароткія. Пакуль тое ды сёе*

*— ужо і сутонела.* Гарэцкі. *Здарылася неяк, я загуляў у Барысаве з хлопцамі; пакуль тое ды сёе, дык і цёмна стала.* Галубок. *[Пытляваны:] Пакуль мы тут сёе ды тое, дык яны, можа, ужо і зладзілі.* Крапіва.

**Т`ОЕ-С`ЁЕ (С`ЁЕ-Т`ОЕ).** *У ролі розных чл. ск. Разм.* **1**. Нямногае, некаторыя рэчы. *Сваёй гутаркай бацька хацеў тое-сёе выведаць ад самога Мікіты.* Галавач. *Такі ж і трэба сёе-тое абмеркаваць як мае быць, аб тым, аб сім пагаманіць.* Колас. *Трохі пагаварыўшы пра сёе-тое і абмяняўтыся парай жартоўных фраз, мы развіталіся.* Быкаў.

**2**. Што-небудзь (які-н. прадмет, факт, які не хочуць назваць). *[Каравай:] Ёсць магчымасць выпрасіць тое-сёе ў начальства.* Макаёнак. *Ты мне вачэй не адводзь, я сёе-тое заўважаю.* Крапіва. *У нас знойдзецца сёе-тое для атрада.* Новікаў.

**ТО Т`ОЕ ТО С`ЁЕ (ТО С`ЁЕ ТО Т`ОЕ).** *Дап. Разм.* Самае рознае. **Сін**.: сёе і тое. *Алесь Кулёк вельмі любіў луг... І ў сёлетнюю вясну збіраўся схадзіць туды. Але ўсё не выпадала: то тое то сёе, а галоўнае быў заняты вучобай.* Сіняўскі. *—А вяргіня? —Забыліся выкапаць. Не ў галаве было. То сёе то тое — забыліся.* Чорны.

**ШТО БУДЗЕ ТОЕ БУДЗЕ.** Гл. будзе.

**ЯК НА Т`ОЕ.** *У знач. пабочн. сл. Разм.* Быццам кімсьці падстроена, нібы знарок. Выказванне шкадавання ў сувязі з чым-н. **Сін**.: як на бяду; як на грэх; як на злосць; як на ліха; як на тое ліха. *Параска добра прыслухоўвалася, каб пачуць, што скажа Кандрат. А ён, як на тое, не гаварыў і слова.* Лобан. *Прайшоўся ля Данусінага дома. Як на тое, на панадворку — ні душы.* Карпюк.

**ЯК НА ТОЕ ЛІХА.** Гл. ліха.

*ТОЙ* ● **АДПРАЎЛЯЦЦА НА ТОЙ СВЕТ.** Гл. адпраўляцца.

**АДПРАЎЛЯЦЬ НА ТОЙ СВЕТ** *каго.* Гл. адпраўляць.

**АДЫХОДЗІЦЬ НА ТОЙ СВЕТ.** Гл. адыходзіць.

**ГЛЯДЗЕЦЬ НА ТОЙ СВЕТ.** Гл. глядзець.

**ЗАГАНЯЦЬ НА ТОЙ СВЕТ** *каго.* Гл. заганяць.

**І Ў ТОЙ БОК НЕ ГЛЯДЗЕЦЬ.** Гл. глядзець.

**НА ТОЙ СВЕТ.** Гл. свет.

**НЕ З ТОЙ ОПЕРЫ.** Гл. оперы.

**НЕ НА ТОЙ ВУЛІЦЫ.** Гл. вуліцы.

**ПЛАЦІЦЬ ТОЙ ЖА МАНЕТАЙ** *каму.* Гл. плаціць.

**ПУСКАЦЬ НА ТОЙ СВЕТ** *каго.* Гл. пускаць.

**СКАКАЦЬ НЕ З ТОЙ НАГІ.** Гл. скакаць.

**ТОЙ СВЕТ.** Гл. свет.

**Т`ОЙ-С`ЁЙ (С`ЁЙ-Т`ОЙ).** *У ролі розных чл. ск. Разм.* **1**. Некаторыя,

нямногія (людзі). *Некалькі чалавек пападала на зямлю. Той-сёй кінуўся прэч з насыпу.* Карпаў. *Госці — суседзі і сваякі — пілі і закусвалі, але сёй-той, гледзячы на свайго гасціннага гаспадара, думаў, што Людвік нечым не задаволен.* Чорны.

**2**. Нехта (каго не хочуць назваць). *Кожны хоча быць гаспадаром. Сёй-той яшчэ хоча і пажывіцца з чужой гаспадаркі* Далідовіч. *Гэту простую ісціну не шкодзіла б засвоіць і сяму-таму з нашых сучасных маладых пісьменнікаў.* Бугаёў.

**Т`ОЙ ЦІ `ІНШЫ.** *М., ж. і н.*; *адз. і мн. Азн. Функц. не зам.* Які-небудзь. *У жыцці бывае, калі несумленны чалавек да пары да часу займае адказную пасаду ў той ці іншай установе, калі злодзей або хапуга гандлюе ў магазіне, калі невук выдае сябе за вучонага і г.д.* Шкраба. *Начальнік аддзела часта, жадаючы высветліць тое ці іншае пытанне, не выклікаў да сябе падначаленага, а сам ішоў да яго.* Шыцік. *Час ад часу ўзнікае патрэба ўносіць і тыя ці іншыя змены і ўдакладненні ў існуючыя нормы і правілы.* Крапіва.

**УСТАЦЬ НЕ З ТОЙ НАГІ.** Гл. устаць.

**ЯК Т`ОЙ КАЗ`АЎ.** *У знач. пабочн. сл. Разм.* Як прынята гаварыць. **Сін**.: што называецца; як кажуць. *[Скіба:] Людзі мы ліхія, прыехалі грабіць старога. [Дзед Бадыль:] Спазніліся крыху. Знайшліся такія, што ранёй за вас управіліся. Цяпер, як той казаў, голаму разбой не страшан.* Крапіва. *На стале будзе, як той казаў, і паранае і варанае.* Васілёнак.

*ТОЛК* ● **ВЕДАЦЬ ТОЛК** *у кім, у чым.* Гл. ведаць.

**УЗЯЦЬ <САБЕ> У ТОЛК** *што.* Гл. узяць.

*ТОЛКАМ* ● **З Т`ОЛКАМ.** *Акал. Разм.* Разумна, талкова (рабіць што-н.). **Сін**.: з галавой (у 2 знач.); з розумам. **Ант**.: без толку (у 2 знач.); ні складу ні ладу. *[Рыгор:] Ціха, таварышы! Будзьце паважнымі. Пытанне вялікае. Думай кожны мацней...Галасуй з толкам.* Міровіч. *[Дырэктар:] Спакойна. Без панікі. З толкам. Часу ў нас шмат.* А.Александровіч. *Ты, Антось, у лесе рабі па-гаспадарску, з толкам...* Чарнышэвіч.

*ТОЛКУ* ● **БЕЗ Т`ОЛКУ.** *Акал. Разм.* **1**. Дарэмна, упустую, бескарысна (рабіць што-н.). *Некалькі разоў Сяргей мяняў чарвей, пляваў на іх, як вучыў яго бацька, але ўсё было без толку.* Гігевіч. *Чатыры разы ўзапар хадзіў я па языкі — і ўсё без толку.* Якімовіч.

**2**. Неразумна, бязладна, бяссэнсава. **Сін**.: ні складу ні ладу. **Ант**.: з галавой (у 2 знач.); з розумам; з толкам. *Як кажуць, з толкам і без толку напісана дагэтуль шмат — пра дождж, пра буру, пра вясёлку, пра снег, пра лістапад.* Броўка.

**ЗБІВАЦЦА З ТОЛКУ.** Гл. збівацца.

**ЗБІВАЦЬ З ТОЛКУ** *каго.* Гл. збіваць.

*ТОЛЬКІ* ● **АДНА <ТОЛЬКІ> НАЗВА.** Гл. назва.

**ДЫ І (ДЫЙ) Т`ОЛЬКІ.** *У знач. узмацн. часціцы. Разм.* Ужыв. пры наз. як сцвярджэнне, узмацненне выказвання. **Сін**.: ды годзе (у 2 знач.). *Праўда, у пайдня выблісНула сонца, снег растаў, але ўсё адно на лета не было падобна — восень, ды і толькі.* Грахоўскі. *Бяда дый толькі ад такіх сяброў.* Галавач.

**ПАДУМАЦЬ ТОЛЬКІ.** Гл. падумаць.

**<ТОЛЬКІ> АДНЫ ВОЧЫ ЗАСТАЛІСЯ** *ў каго.* Гл. вочы.

**ТОЛЬКІ І БАЧЫЛІ** *каго.* Гл. бачылі.

**ТОЛЬКІ ПА СМЕРЦЬ ПАСЫЛАЦЬ** *каго.* Гл. пасылаць.

**ТОЛЬКІ ПТУШЫНАГА МАЛАКА НЯМА** *ў каго, дзе.* Гл. няма.

**<ТОЛЬКІ> ПУХ ЛЯЦІЦЬ** *ад каго, з каго.* Гл. пух.

**ТОЛЬКІ ПЫЛ КУРЫЦЬ.** Гл. пыл.

**<ТОЛЬКІ> ПЯТКІ БЛІШЧАЦЬ** *у каго.* Гл. пяткі.

**ТОЛЬКІ СВЕТУ ШТО Ў АКНЕ** *<у каго>.* Гл. свету.

**<ТОЛЬКІ> СКУРА ДЫ КОСЦІ ЗАСТАЛІСЯ** *на кім, у каго, ад каго.* Гл. скура.

**ТОЛЬКІ ТРЫМАЙСЯ.** Гл. трымайся.

**<ТОЛЬКІ> ЦЕРАЗ МОЙ ТРУП.** Гл. труп.

**У ЧЫМ <ТОЛЬКІ> ДУША ТРЫМАЕЦЦА** *ў каго, чыя.* Гл. душа.

**ЯШЧЭ ТОЛЬКІ НЕ ХАПАЛА** *каго, чаго.* Гл. хапала.

*ТОН* ● **ДАВАЦЬ ТОН** *<каму, чаму, у чым>.* Гл. даваць.

**ТРАПЛЯЦЬ У ТОН** *каму.* Гл. трапляць.

**У Т`ОН.** *Акал. Функц. не зам.* **1**. *чаму.* Сугучна чаму-н. **Сін**.: ва ўнісон (у 1 знач.). *Вочкі ў хлопца заблісКалі, слухаў ён хвіліны тры, потым зразу ў тон цаляе, падбірае гэты ўтор, та[к]т ні разу не губляе,— смеласць чуецца, прастор.* Колас. *Заспяваў ён [коннік] амаль зусім нячутна, і песня гучала не ў тон ні сонцу, ні вясне.* Брыль.

**2**. *каму.* У тым жа духу, у той жа манеры (гаварыць, адказваць, азывацца і пад.). *—Эх вы, а яшчэ рыцар называецца! Ну, бывайце здаровы. —Добрых сноў і добрых жаніхоў... — у тон ёй адказаў Заслонаў і спяшаючыся пайшоў назад.* Лынькоў. *—І доўга ён там быў на гародзе? —А хіба ж я яго пільнаваў? — у тон старшыні запытаў Тодар.* Крапіва.

**3**. *чаму, да чаго.* У поўнай адпаведнасці з чым-н. Пра гармонію колераў, адценняў чаго-н. *Светлы, добра скроены пінжак. Чыстая, адпрасаваная сарочка. У тон да іх удала падабраны гальштук.* Сабалеўскі.

*ТОНЕ* ● **<І> У АГНІ НЕ ГАРЫЦЬ І Ў ВАДЗЕ НЕ ТОНЕ.** Гл. гарыць.

*ТОНКАЯ* • **КІШКА ТОНКАЯ** *ў каго.* Гл. кішка.
*ТОРБАЙ* • **МЕХ З ТОРБАЙ** *нагаварыць*. Гл. мех.

**ПУСКАЦЬ З ТОРБАЙ <ПА СВЕЦЕ>** *каго.* Гл. пускаць.

**ЯК <ДУРАНЬ> З ПІСАНАЙ ТОРБАЙ.** Гл. дурань.

*ТОРБЕ* • **КОТ У ТОРБЕ.** Гл. кот.

*ТОРБЫ* • **ДА ТОРБЫ** *давесці, дайсці. Дап. Разм.* Да поўнага разарэння, да выключнай беднасці. *А хто ж табе вінават, што ў цябе не гаспадарка, а халера ведае што? Што ты сваю гаспадарку да торбы давёў?!* Чорны. *[Іосіф] у выгодзе сам пражыў, а людзей давёў да торбы.* Крапіва. *[Матруна:] А хіба ты не да торбы ўжо дайшла? А ўсё праз разумненькага мужыка.* Гарбацэвіч.

*ТОРГ* • **ПАСПЕЕШ З КОЗАМІ НА ТОРГ.** Гл. паспееш.

*ТОЎПІЦЦА* • **НЕ ТОЎПІЦЦА Ў ГАЛАВЕ** *чыёй, у каго.* Гл. укладваецца.

*ТОЎСТАЯ* • **ТОЎСТАЯ КІШЭНЬ.** Гл. кішэнь.

*ТОЎСТЫ* • **ТОЎСТЫ КАШАЛЁК.** Гл. кашалёк.

*ТОЧНА* • **ТАК ТОЧНА.** Гл. так.

*ТОЧЫЦЬ* • **ЧАРВЯК ТОЧЫЦЬ** *каго.* Гл. чарвяк.

*ТПРУ* • **НІ ТПР`У НІ Н`У (Н`О).** *У знач. дзеясл. вык. Праст.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нічога не робіць, ніяк не выяўляе сябе, нічога не распачынае. **Сін**.: ні з месца (у 2 знач.); ні кроку (у 2 знач.). *Да прыкладу, Лявон, — чым не жаніх, здаецца, — падыдзе, падміргне і засмяецца, а вось далей — ні тпру ні но...* Корбан. *Усім хацелася забіваць галы, і ніхто не хацеў стаяць у варотах. Упрошвалі Сярожу і я, і Вася, і Паўлуша. А ён ні тпру ні ну.* Міська. *[Барздыкава] справа такая: загадалі ісці — ідзе, стой — стой. А тут нешта ні тпру ні ну...* Казько.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Не дзейнічае. Пра машыну, апарат і пад. *Іхнія [англійскія] трактары аблегчаныя да апошняга. Скорасць шалёная, як у ганчака. А з добрым грузам ён ні тпру ні ну.* Б.Стральцоў. *Два міліцыянеры.., ідучы сваёй службовай дарогай, зазірнулі ў акенца адзінокага таксі, якое знаходзілася ў стане, як кажуць, — ні тпру ні но.* Пестрак.

*ТРАВА* • **Х`ОЦЬ ТРАВ`А НЕ РАСЦ`І** *<каму>. Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Разм. Часцей неадабр.* Абсалютна аднолькава, без розніцы, не мае значэння для каго-н., не хвалюе, не кранае каго-н. **Сін**.: абы дзень да вечара *каму* (у 2 знач.); адзін хрэн каму; адзін чорт *<каму, для каго>*; адна трасца *<каму>*; адна халера; адно ліха; і гора мала *каму*; і не шум баравы *каму*; ні горача ні холадна *каму ад чаго*; усё адно (у 2 знач.); усё роўна (у 4 знач.); хоць бы хны (у 3 знач.); хоць бы што (у 3 знач.); хоць воўк траву еш; хоць патоп; што з гусі вада *з каго, каму*; як з гусака вада *з каго. Жыві, пакуль*

*жывецца... Вышэй жа галаву, жыццё на прыцэл, дарагі мой, а там... там... далей хоць трава не расці...* Лынькоў. *[Рынкевіч] бачыў, напэўна, зямлю не толькі вачамі лесапрамыслоўца, катораму абы больш дрэва ўзяць з дзялянкі, валіць ды валіць, а там — хоць трава не расці, але і вачамі гаспадара.* Карамазаў. *Тут усё засмечана кансервавымі бляшанкамі, цэлафанавымі і папяровымі ашмёткамі. Адразу бачна, наведваюцца сюды людзі, прынцып якіх: наляцелі, выпілі, закусілі, а далей – хоць трава не расці!* Пашкоў.

*ТРАВІЦЬ* ● **К`ОЗАМІ С`ЕНА ТР`АВІЦЬ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рабіць лішнія расходы, пераводзіць дабро. *Зося спачатку аднеквалася, але ўрэшце, узяўшы ў руку чарку, адвярнулася на старану, сербанула крыху і, зморшчыўшыся, сплюнула. — Козамі сена травіць — толькі глум, — заўважыў бацька, — лепш садзіся ды еш.* Ядвігін Ш. *А туды [у сельсавет] я ўжо насіла заяву, дык Несцераўна мне такую рэзалюц[ыю] гаворыць: хата старэнькая, трэба добры дом ставіць, тады будзе і страха... Я сама ведаю, што не варта козамі сена травіць, але думалася, мо як выпрашу...* Місько.

**ТРАВ`ІЦЬ БАЛАНД`У.** *Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Займацца пустымі размовамі, пустаслловіць. **Сін**.: араць дарогі; біць язык аб зубы (у 2 знач.); блынды правіць; гарадзіць плот <*каму*>; званіць у <разбіты> лапаць; круціць вала <за хвост> (у 2 знач.); ліць ваду і мазоліць язык; малоць языком (у 1 знач.); малоць не падсяваючы; мянціць язык; пераліваць з пустога ў парожняе (у 2 знач.); плесці кашалі <*каму, пра каго, пра што*>; плесці кашалі з лапцямі; плесці лапці; пляскаць языком; разводзіць антымоніі; разводзіць тары-бары; тары-бары <растабары> (у 2 знач.); таўчы ваду ў ступе (у 2 знач.); тачыць лясы <*з кім*>; трапаць языком; часаць язык (у 1 знач.); часаць языком. *Хопіць, штурман, травіць баланду. Заўтра ў мора, а мы яшчэ і пагаварыць не паспелі.* Крыга.

**2**. Хлусячы, старацца падмануць каго-н. **Сін**.: абводзіць вакол пальца *каго*; абуваць у лапці *каго*; бакі забіваць *каму*; браць на арапа *каго*; браць на бога *каго*; браць на вудачку *каго*; браць на пушку *каго*; вадзіць за нос *каго*; вешаць лапшу <на вушы> *каму*; віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць у поле *каго*; гнуць дугі; гуляць у ката і мышку; дурыць галаву *каму* (у 1 знач.); задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); замазваць вочы *каму,* замыльваць вочы *каму*; запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму*; корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму*; настаўляць

акуляры *каму*; прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму*; пускаць пыл у вочы *каму*; сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); туманіць вочы *каму*; туманіць галаву *каму*. *Участковы, каб не зацягваць размову, прыступіў да справы адразу. —Ты нам, Мікалаевіч, баланды, калі ласка, не травi... — сказаў ён сурёзна.* Дайліда. *—Два прэнты перапілавай?! — не мог даць веры Алесь. — А ты, Іван, не баланду травіш? —Надта трэба мне брахаць. Папраўдзе кажу.* Шлег. *Санька нармальны хлопец, толькі выхваляцца любіць, хоць, калі б і ў мяне так атрымалася, я б таксама не горш баланду травіў.* Кацюшэнка.

*ТРАВУ* ● **ХОЦЬ ВОЎК ТРАВУ ЕШ.** Гл. еш.

*ТРАВЫ* ● **ЦІШЭЙ ВАДЫ <І> НІЖЭЙ ТРАВЫ.** Гл. цішэй.

*ТРАІХ* ● **НА ТРАІХ РОС, АДНАМУ ДАСТАЎСЯ.** Гл. рос.

*ТРАНТАМІ* ● **ТРЭСЦІ ТРАНТАМІ.** Гл. трэсці.

*ТРАПАЦЬ* ● **ТРАПАЦЬ НЕРВЫ** *каму*. Гл. псаваць.

**ТРАП`АЦЬ ЯЗЫК`ОМ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Займацца пустымі размовамі, пустасловіць. **Сін**.: араць дарогі; біць язык аб зубы (у 2 знач.); блынды правіць; гарадзіць плот <*каму*>; званіць у <разбіты> лапаць; круціць вала <за хвост> (у 2 знач.); ліць ваду; мазоліць язык; малоць языком (у 1 знач.); малоць не падсяваючы; мянціць языком; пераліваць з пустога ў парожняе (у 2 знач.); плесці кашалі <*каму, пра каго, пра што*>; плесці кашалі з лапцямі; плесці лапці; пляскаць языком; разводзіць антымоніі; разводзіць тары-бары; тары-бары <растабары> (у 2 знач.); таўчы ваду ў ступе (у 2 знач.); тачыць лясы <*з кім*>; травіць баланду (у 1 знач.); часаць язык (у 1 знач.); часаць языком. *Так у сушні ў нас вядзецца век вяком, там найболей бабы трэплюць языком.* Крапіва. *[Федзя:] Вы ўсяго языком трэплеце, дзядзька.* Козел.

*ТРАПІЛА* ● **ЛЯЙЧЫНА ПАД ХВОСТ ТРАПІЛА** *каму*. Гл. ляйчына.

*ТРАПІЦЦА* ● **ТРАПІЦЦА НА ВОЧЫ** *каму. Зак. да* **ТРАПЛЯЦЦА НА ВОЧЫ** *каму*.

**ТРАПІЦЦА НА КРУЧОК** *каму, чый, да каго. Зак. да* **ТРАПЛЯЦЦА НА КРУЧОК** *каму, чый, да каго.*

**ТРАПІЦЦА ПАД РУКУ** *каму. Зак. да* **ТРАПЛЯЦЦА ПАД РУКУ** *каму.*

**ТРАПІЦЦА Ў КІПЦЮРЫ** *каго, чые, каму. Зак. да* **ТРАПЛЯЦЦА Ў КІПЦЮРЫ** *каго, чые, каму.*

**ТРАПІЦЦА Ў ЛАПЫ** *каго, каму, да каго. Зак. да* **ТРАПЛЯЦЦА Ў ЛАПЫ** *каго, каму, да каго.*

**ТРАПІЦЦА Ў РУКІ** *каго, чые, каму, да каго. Зак. да* **ТРАПЛЯЦЦА**

**Ў РУКІ** *каго, чые, каму, да каго.*

*ТРАПІЦЬ* ● **ТР`АПІЦЬ ДА АБР`АМА (ДА АБРАГ`АМА) НА П`ІВА.** *Зак. Разм. Жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Памерці. **Сін**.: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць капыты (у 1 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адысці на той свет; адыходзіць на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 1 знач.); адыходзіць у іншы свет; адыходзіць у лепшы свет; ажаніцца з <сырой> зямлёй; выпростваць ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 1 знач.); дух спускаць; духу не ўказаць; загавець душой; загадаць доўга жыць <*каму*> (у 1 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); канькі адкідаць; лажыцца ў магілу; на паповы сані збірацца; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.). *—Але жаданне пабачыць вас у мяне было такое моцнае, што я разуўся і ўброд перайшоў. —Што вы кажаце?.. Так і сапраўды не штука захварэць і да Абрама на піва трапіць.* Колас. *Хворыя, карыстаючыся з агню, прыкурвалі папяроскі, перакідваліся слоўцамі, іншыя — на выздараўленні — паджартоўвалі: «Праціў ночы выбраўся, нябось якраз трапіць да Абрагама на піва».* Ядвігін Ш. *Мне таксама хапіла ўсяго. Ледзь-ледзь не трапіў быў тут, у Мінску, да Абрагама на піва...* С.Александровіч.

**ТРАПІЦЬ НА ВОЧЫ** *каму. Зак. да* **ТРАПЛЯЦЬ НА ВОЧЫ** *каму.*

**ТРАПІЦЬ НА ЗУБ** *каму, каго, чаго. Зак. да* **ТРАПЛЯЦЬ НА ЗУБ** *каму, каго, чаго.*

**ТРАПІЦЬ НА КРУЧОК** *каму, чый, да каго. Зак. да* **ТРАПЛЯЦЬ НА КРУЧОК** *каму, чый, да каго.*

**ТРАПІЦЬ НА ЯЗЫК** *каму. Зак. да* **ТРАПЛЯЦЬ НА ЯЗЫК** *каму.*

**ТРАПІЦЬ ПАД РУКУ** *каму. Зак. да* **ТРАПЛЯЦЬ ПАД РУКУ** *каму.*

**ТРАПІЦЬ ПАЛЬЦАМ У НЕБА.** *Зак. да* **ТРАПЛЯЦЬ ПАЛЬЦАМ У НЕБА.**

**ТРАПІЦЬ У КІПЦЮРЫ** *каго, чые, каму. Зак. да* **ТРАПЛЯЦЬ У КІПЦЮРЫ** *каго, чые, каму.*

**ТРАПІЦЬ У ЛАПЫ** *каго, каму, да каго. Зак. да* **ТРАПЛЯЦЬ У ЛАПЫ** *каго, каму, да каго.*

**ТРАПІЦЬ У НЕРАТ <НІ ЎЗАД НІ ЎПЕРАД>.** *Зак. да* **ТРАПЛЯЦЬ У НЕРАТ <НІ ЎЗАД НІ ЎПЕРАД>.**

**ТРАПІЦЬ У ПАСТКУ.** *Зак. да* **ТРАПЛЯЦЬ У ПАСТКУ.**

**ТРАПІЦЬ У ПЕРАПЛЁТ.** *Зак. да* **ТРАПЛЯЦЬ У ПЕРАПЛЁТ.**

**ТРАПІЦЬ У РУКІ** *каго, чые, каму, да каго. Зак. да* **ТРАПЛЯЦЬ У РУКІ** *каго, чые, каму, да каго.*

**ТРАПІЦЬ У <САМЫ> ЯБЛЫЧАК.** Гл. пацэліць.

**ТРАПІЦЬ У ТОН** *каму. Зак. да* **ТРАПЛЯЦЬ У ТОН** *каму.*

**ТРАПІЦЬ У ТУПІК.** *Зак. да* **ТРАПЛЯЦЬ У ТУПІК.**

**ТРАПІЦЬ У ЦЭЛЬ.** *Зак. да* **ТРАПЛЯЦЬ У ЦЭЛЬ.**

*ТРАПЛЯЕ* ● **ЗУБ НА ЗУБ НЕ ТРАПЛЯЕ** *ў каго.* Гл. зуб.

*ТРАПЛЯЦЦА* ● **ТРАПЛЯЦЦА НА ВОЧЫ** *каму.* Гл. пападаць.

**ТРАПЛЯЦЦА НА КРУЧОК** *каму, чый, да каго.* Гл. пападаць.

**ТРАПЛЯЦЦА НА ЯЗЫК** *каму.* Гл. пападаць.

**ТРАПЛЯЦЦА ПАД РУКУ** *каму.* Гл. пападаць.

**ТРАПЛЯЦЦА У КІПЦЮРЫ** *каго, чые, каму.* Гл. пападаць.

**ТРАПЛЯЦЦА У ЛАПЫ** *каго, каму, да каго.* Гл. пападаць.

**ТРАПЛЯЦЦА Ў РУКІ** *каго, чые, каму, да каго.* Гл. пападаць.

*ТРАПЛЯЦЬ* ● **ТРАПЛЯЦЬ НА ВОЧЫ** *каму.* Гл. пападаць.

**ТРАПЛЯЦЬ НА ЗУБ** *каму, каго, чаго.* Гл. пападаць.

**ТРАПЛЯЦЬ НА КРУЧОК** *каму, чый, да каго.* Гл. пападаць.

**ТРАПЛЯЦЬ НА ЯЗЫК** *каму.* Гл. пападаць.

**ТРАПЛЯЦЬ ПАД РУКУ** *каму.* Гл. пападаць.

**ТРАПЛЯЦЬ ПАЛЬЦАМ У НЕБА.** Гл. пападаць.

**ТРАПЛ`ЯЦЬ (ПАТРАПЛ`ЯЦЬ) У Т`ОН** *каму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць або рабіць так, што гэта адпавядае жаданням, поглядам, настрою і пад. каго-н. *Алесь падзячан добрай маме, бо маці ў тон яму трапляе і на катоў віну ўскладае.* Колас. *—А потым раскідай яго, заары, пасей, ураджай дагледзь. І каб плуг, і каб серп у цябе... —І каб гуменца з токам, — дадае Іван, патрапляючы яму ў тон.* Ракітны. **ТРАПІЦЬ (ПАТРАПІЦЬ) У ТОН** *каму. Зак. Усе іншыя госці.. ужо былі падрыхтаваны адмоўна да «містэрый» ксяндза Марцэвіча. Гэтым яны хацелі трапіць у тон пану Вашамірскаму і ўгадзіць яму.* Бядуля. *Ціток стуліўся, галаву ўцягнуў у плечы... І пастараўся, каб у тон трапіць Кандрату.* Лобан. *Відаць, матрос патрапіў у тон, бо Сцёпка заплюшчыў вочы і блазліва пацягнуўся.* Крыга.

**ТРАПЛЯЦЬ У КІПЦЮРЫ** *каго, чые, каму.* Гл. пападаць.

**ТРАПЛЯЦЬ У ЛАПЫ** *каго, каму, да каго.* Гл. пападаць.

**ТРАПЛ`ЯЦЬ У П`АСТКУ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Аказвацца ў цяжкім, небяспечным ці бязвыхадным становішчы. **Сін.**: заходзіць у тупік; пападаць у пераплёт; папасціся ў нерат <ні ўзад ні ўперад>; трапляць у тупік. **ТРАПІЦЬ У ПАСТКУ.** *Зак. Патрэбна тваё пільнае вока, бо з Чаравакі яшчэ не вырас сакратар райкома. Трэба яму памагчы, бо можа хлопец трапіць у*

*пастку.* Пестрак. *Ты ж разумееш, каб яны напалі нечакана, то не толькі маглі б знішчыць атрад Плюшчая, але і нашкодзіць на пераправе. А так — трапілі ў пастку.* Шамякін. *—Што Рыбакова вам загадала? —Корзун не давай часу на роздум. Калі яго здагадка правільная, то Плахоцкая павінна трапіць у пастку.* Шыцік.

**ТРАПЛЯЦЬ У ПЕРАПЛЁТ.** Гл. пападаць.

**ТРАПЛЯЦЬ У РУКІ** *каго, чые, каму, да каго.* Гл. пападаць.

**ТРАПЛ`ЯЦЬ У ТУПІК.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Аказвацца ў цяжкім ці бязвыхадным становішчы. **Сін**.: заходзіць у тупік; пападаць у пераплёт; папасціся ў нерат <ні ўзад ні ўперад>; трапляць у пастку. **ТРАПІЦЬ У ТУПІК.** *Зак. Раз-пораз у развагі прыходзіла горшае. Такое, ад чаго [Башлыкову] здавалася, нібы трапіў у тупік.* Мележ.

**ТРАПЛЯЦЬ У ЦЭЛЬ.** Гл. пападаць.

*ТРАСУЦЦА* ● **КАЛЕНІ ТРАСУЦЦА** *ў каго.* Гл. калені.

**ПАДЖЫЛКІ ТРАСУЦЦА** *ў каго.* Гл. паджылкі.

*ТРАСЦА* ● **АДНА ТРАСЦА** *<каму>. У безас. ужыв. Прааст. Незадав.* Абсалютна аднолькава, без розніцы, не мае значэння для каго-н. **Сін**.: абы дзень да вечара *каму* (у 2 знач.); адзін хрэн *каму*; адзін чорт <*каму, для каго*>; адна халера; адно ліха; і гора мала *каму*; і не шум баравы *каму*; ні горача ні холадна *каму ад чаго*; усё адно (у 2 знач.); усё роўна (у 4 знач.); хоць бы хны (у 3 знач.); хоць бы што (у 3 знач.); хоць воўк траву еш; хоць патоп; хоць трава не расці <*каму*>; што з гусі вада *з каго, каму*; як з гусака вада *з каго. [Лютынскі-сын:] Няўжо ты не разумееш, што можаш так і мне і сабе пашкодзіць? [Лютынскі-бацька, махнуўшы рукой:] А-а... Мне ўжо адна трасца.* Крапіва. *Мне шаснаццаць гадоў, дзядзьку пайшоў дваццаць першы, а бацьку ўжо за сорак, аднак усім нам, як кажа бабуля, «адна трасца», усе тры, «як малыя».* Брыль. *Адна трасца — ці плотка, ці карась.* Гардзей.

**НІ`ЯКАЯ ТР`АСЦА НЕ БЯР`Э (НЕ В`ОЗЬМЕ)** *каго. У безас. ужыв. Праст.* Абсалютна нічога не здараецца, не робіцца з кім-н., не шкодзіць каму-н. **Сін**.: кадук не бярэ *каго*; ліха не бярэ *каго*; ніякае ліха не бярэ *каго*; ніякая халера не бярэ *каго*; ніякі чорт не бярэ *каго*; халера не бярэ *каго*; хвароба не бярэ *каго*; чорт не бярэ *каго. Што яму адыходзіць? Ніякая трасца не бярэ.* Грахоўскі. *—Сядзь, укол зробім супраць слупняку. —Навошта, мяне ніякая трасца не возьме.* Капусцін. *Нас і папраўдзе не брала ніякая трасца — ні мяне, ні Зінчыка. Мы мерзлі, галадалі, але ніякая хворасць да нас не ліпла.* Васілёнак.

**ТР`АСЦА НЯС`Е (Г`ОНІЦЬ)** *каго. Незак. У безас. ужыв. Праст.* Хто-

н. недарэчы, не ў пару прыходзіць, з'яўляецца. Выказванне незадавальнення ў сувязі з прыходам нежаданага госця, наведвальніка. **Сін**.: ліха гоніць *каго*; ліха нясе *каго*; нялёгкая гоніць *каго*; нялёгкая нясе *каго*; нячыстая <сіла> гоніць *каго*; нячыстая <сіла> нясе *каго*; нячысцік нясе *каго*; халера нясе *каго*; чорт гоніць *каго*; чорт нясе *каго. Каго там трасца нясе? Ліха ма-атары!..* Чарнышэвіч. *Маці здзівілася: «куды цябе ў такую рань трасца нясе?»* «Маладосць». **ТРАСЦА ПРЫНЕСЛА (ПРЫГНАЛА)** *каго. Зак. Усе адказы – нервова-адрывістыя. Маўляў, чаго цябе трасца прыгнала сюды?* Міхько.

**ТР`АСЦА ЯГ`О (Я`Е, `ІХ) БЯР`Ы.** *Толькі ў заг. л. Выкл. Праст.* Няхай будзе так, можна пакінуць без увагі. Выказванне згоды, прымірэння, уступкі і пад. **Сін**.: алах з табой; бог з табой; кадук з ім; ліха з ім; ліха яго бяры; халера з ім; халера яго бяры; хвароба з ім; хрэн з ім; чорт з ім; чорт яго бяры. *[Міхаліна:] Мне то ўсё роўна, я магу панчоху і з чорнай пяткаю, і з белай надзець, трасца яе бяры, у валёнку не відно.* Петрашкевіч.

**ТР`АСЦА ЯГ`О (Я`Е, `ІХ) В`ЕДАЕ.** *Часцей у знач. галоўн. ск. Праст. Неадабр.* Невядома. **Сін**.: агонь яго ведае; алах яго ведае; бог яго ведае; вятры яго ведаюць; кадук яго ведае; немач яго ведае; нячысцік яго ведае; пярун яго ведае; халера яго ведае; хвароба яго ведае; хрэн яго ведае; хто яго ведае; чамярыца яго ведае; чорт яго ведае. *Адна-аднюсенькая скацінка ёсць у хаце, каторай яна надта даражыць, — а часам чужое вока зірне на пестуна яе, ды мо зашкодзіць — трасца яго ведае!* Каваленка. *Падумаў [Паўлюк], што, можа, і праўду кажа старая — не прывыкла скаціна да новага жыцця. Смуткуе... Цьфу, але ж і выдумае. А зрэшты, трасца яе ведае, можа, і смуткуе.* Лялько.

**ТР`АСЦА ЯГ`О (Я`Е, `ІХ, ТВА`ЁЙ, В`АШАЙ) ГАЛАВ`Е.** *Выкл. Праст.* Выказванне прыкрасці, абурэння і пад. кім-, чым-н. **Сін**.: каб на яго ліха; кадук на яго; кадук яго вазьмі; ліха матары <*чыёй*>; ліха на яго; ліха яго галаве; трасца яго матары; трасца яму ў бок; халера на яго; хвароба на яго; хрэн у вочы *каму*; чэмер на яго галаву. *А што ж далей? Ды вось сядзі на табурэтцы, прывінчанай да падлогі, глядзі на белую сцяну... Надпісаў штосьці на сценах няма. Орднунг, трасца яго галаве!..* Брыль. *Злавілі, трасца іх галаве, Падлюга адзін выказаў...* Сабаленка. *[Вадап'ян:] Паны ўсе, трасца вашай галаве, і хваробы ў вас панскія. Папрацуй як трэба, то будзеш спаць, хоць шылам калі.* Колас.

**ТР`АСЦА ЯГ`О (Я`Е, `ІХ, ТВА`ЁЙ, В`АШАЙ) М`АТАРЫ.** *Выкл. Праст.* Выказванне незадавальнення, абурэння або здзіўлення, захаплення кім-, чым-н. **Сін**.: каб на яго ліха; кадук на яго; кадук

яго вазьмі; ліха матары *<чыёй>*; ліха на яго; ліха яго галаве; трасца яго галаве; трасца яму ў бок; халера на яго; хвароба на яго; хрэн у вочы *каму*; чэмер на яго галаву. *Трасца яго матары, без акуляраў ужо аніяк не магу!* Брыль. *—Аўстрыйцаў повен лес нагналі, кажуць, будуць рэзаць лес падчыстую, і земскае, і няземскае... — Ссякуць, трасца іх матары, не будзе пушчы.* Лобан. *А гаспадыня ўсё нас бульбай з кіслым малаком душыць. Пачакай жа, трасца тваёй матары.* Крапіва.

**ТР`АСЦА ЯМ`У (`ЁЙ, `ІМ, В`АМ) У Б`ОК.** *Выкл. Праст. Груб.* Выказванне незадавальнення, абурэння, прыкрасці і пад. **Сін**.: каб на яго ліха; кадук на яго; кадук яго вазьмі; ліха матары *<чыёй>*; ліха на яго; ліха яго галаве; трасца яго галаве; трасца яго матары; халера на яго; хвароба на яго; хрэн у вочы *каму*; чэмер на яго галаву. *[Зуй:] Гэта ўсё нам на злосць. [Касабуцкі:] А мы возьмем дый пасядзім. [Зуй:] І закурым, вось і халера іх бяры! [Касабуцкі:] І трасца ім у бок!* Крапіва. *—Але, можа, паспеем пераскочыць семсот дваццаты [кіламетр], трасца яму ў бок, — дадаў Васіль, з трывогаю зірнуўшы на машыніста.* Васілёнак. *[Тэкля:] Хоць бы дзетак пашкадавалі, ірады!.. Няма ў вас сэрца!.. Пагібелі на вас няма, трасца вам у бок!..* Кобец-Філімонава.

**УС`ЯКАЯ ТР`АСЦА.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Праст. Неадабр.* Самае рознае, усё, што хочаш. **Сін**.: усякая хвароба. *— Што ж ты рабіў, у карты дуў? —Усяго, брат, было: і карты, і піятыка, ўсякая трасца. Вось жа я і ўцёк ад усяго гэтага. Абрыдла і астачарцела.* Колас.

**ШТ`О ЗА ТР`АСЦА!** *Выкл. Праст.* Вокліч незадавальнення, здзіўлення, неразумення. Што гэта значыць, як гэта зразумець?! **Сін**.: што за ліха!; што за хвароба!; што за чартаўшчына!; што за чорт! *—Што яму за трасца! — дзівіўся Грамабой. —Мы ж толькі што разам з ім закурвалі за шліхтаю. Я пайшоў да свайго каня, а ён застаўся. Раптам чую — крычыць нехта не сваім голасам.* Крапіва. *У Насціных вокнах было шэра, не відаць было агню ў печы. Што за трасца? Не начавала? Ці справілася выпаліць печ ды збегла куды?* Карамазаў.

**ЯК`АЯ ТР`АСЦА.** *У знач. дзейн. ці дап. Праст. Неадабр. Часцей ужыв. у пытальных ск.* Што (адбываецца, робіцца з кім-, чым-н., рабіць што-н.). **Сін**.: якая халера, якое ліха. *А немцы?.. Якая трасца прымушае іх мучыць нас? Ну, скажы, камандзір!* Карпаў. *—Ну, дык не еш, калі нясмачна, якую ж я табе трасцу згатую? —адказала жонка.* Крапіва. *Якой трасцы ён сёння трэці раз выклікае? — злаваўся Андрэй Бушуеў, ідучы да каменданта.* Кудраўцаў.

*ТРАСЦУ* ● **НА ЯК`УЮ ТР`АСЦУ.** *Акал. Праст. Незадав.* Навошта, для чаго. **Сін**.: да д'ябла (у 3 знач.); на воўка; на ліха; на халеру; на хваробу; на храна; на чорта; на які ляд; на які хрэн; на які чорт; на якога чорта; на якое ліха; на якую халеру; якога ліха (у 1 знач.); якога ражна (у 1 знач.); якога хрэна (у 1 знач.); якога чорта (у 1 знач.). *—Недарэка. Цягае на двор усякае ламачча... На якую трасцу? —Жонка сярдзіта плюнула і пайшла зноў у сенцы.* Дудараў. *[Тоця] і нагадала мужу — на якую трасцу складваць грошы ў каліту. Яшчэ заробяць...* І.Капыловіч.

**ТР`АСЦУ З ХВАР`ОБАЙ (-Ю).** *Праст. Груб.* **1**. *Дап.* Зусім нічога (не атрымаць, не даваць і пад.). **Сін**.: гула асмаленая; дулю з макам (у 1 знач.); дулю з маслам (у 1 знач.); курыную сісю і тую не ўсю. *— Зямля табе трэба? —Ну а калі і трэба, то ты мне дасі яе? — Трасцу з хваробаю я табе дам, ідзі сам бяры.* Лобан.

**2**. У *знач. адмоўн. слова-ск.* Не, зусім не. **Сін**.: дулю з макам (у 2 знач.); дулю з маслам (у 2 знач.). *[Рыгор:] Я-то яшчэ багатым магу быць, а Шмігельскі прыгожым — трасцу з хваробаю.* Крапіва. *—А ці праўда, што твой Шэмет чуму раскідаў?.. —Ага, ага, Мальвіначка, раскідаў. Ён жа і ў тваю хату падкінуў. Бойся заходзіць, — перамяніла тактыку Ніна. —Трасцу з хваробаю!* Лобан.

*ТРАЦІЦЬ* ● **НЯМ`А ЧАГ`О ТР`АЦІЦЬ (ГУБЛ`ЯЦЬ)** *каму. У безас. ужыв. Разм.* Можна на ўсё, на любую рызыку пайсці, бо горш не будзе. *Кажуць, няпэўнасць, навіснуўшы над чалавекам, прымушае яго шукаць выйсце-паратунак. Можа быць. Але бывае і так, што яна абуджае толькі пратэст. К чорту, усё роўна няма чаго траціць.* Карпаў. *[Вячаслаў:] Мне ўжо губляць няма чаго. Таму ўсё вам расказваю. Як на духу...* «Вожык».

**ТРАЦІЦЬ ГАЛАВУ.** Гл. губляць.

*Дарэмна, дарма, не варта* і пад. **ТР`АЦІЦЬ П`ОРАХ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Расходаваць сілы, энергію. *—На маю думку, — адазваўся Сяргей, — як нам трымаць сябе перад судом і што гаварыць, будзе відаць па ходу суда. Хто там будзе прысутнічаць з публікі. Вось там і ўбачым, ці варта траціць порах.* Машара. *[Дзед:] Ладна, я пайду... Навошта дарэмна траціць порах? Не будзе з цябе чалавека!* Шашкоў.

*ТРАШЧАЦЬ* ● **ТРАШЧ`АЦЬ ПА <УС`ІХ> ШВ`АХ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Знаходзіцца пад пагрозай краху, развалу, распаду, зрыву. *[Пякарская:] Мяне паслалі непасрэдна да вас. Правал за правалам. Так болей нельга! Усё трашчыць па швах.* Гурскі. *Зноў для нас настаў сезон вялікіх прастояў. Па швах трашчыць эканоміка многіх аўтагаспадарак.*

«Звязда». *Хвалёны, выпрабаваны ў Еўропе гітлераўцамі «бліцкрыг» трашчаў па ўсіх швах.* «Полымя». *Склады перапоўнены непатрэбнай нікому прадукцыяй. Дзе з ёй дзявацца — ніхто не ведае. Заводскі план трашчыць па ўсіх швах.* «Вожык».

**ЗАТРАШЧАЦЬ ПА <УСІХ> ШВАХ.** *Зак.*

*ТРАШЧЫЦЬ* ● Есці, сёрбаць і пад. **АЖ ЗА ВУШ`АМІ ТРАШЧ`ЫЦЬ (-АЛА).** *Акал. Разм.* З вялікім апетытам, задавальненнем. **Сін**.: аж нос гнецца; за абедзве шчакі (у 1 знач.); на поўную губу (у 2 знач.); на поўны рот; на ўвесь рот (у 1 знач.). **Ант**.: як на плот вешаць. *Сядзіць за сталом у мыцельніку і — аж за вушамі трашчыць — сёрбае гарачы квас з грыбамі.* Васілевіч. *Дык пайшоў я да гэтага самага Гаранка.., а яны ядуць. Усё сямейства, значыцца. Сёрбаюць зацірку, аж за вушамі трашчыць.* Дайнека.

**АЖ ПУП ТРАШЧЫЦЬ.** Гл. пуп.

**ГАЛАВА ТРАШЧЫЦЬ** *у каго.* Гл. галава.

*ТРАЯНСКІ* ● **ТРАЯНСКІ КОНЬ.** Гл. конь.

*ТРОХ* ● **БЛУДЗІЦЬ У ТРОХ СОСНАХ.** Гл. блудзіць.

**ДА ТРОХ НЕ ГАВАРЫ** *з кім, каму.* Гл. гавары.

**ЗА ТРОХ ДУРНЫХ.** Гл. дурных.

**КАМБІНАЦЫЯ З ТРОХ ПАЛЬЦАЎ.** Гл. камбінацыя.

*ТРОПУ* ● **ЗБІВАЦЦА З ТРОПУ** Гл. збівацца.

**ЗБІВАЦЬ З ТРОПУ** *каго.* Гл. збіваць.

**ЗВОДЗІЦЬ З ТРОПУ** *каго.* Гл. зводзіць.

*ТРОХУ* ● **ПРЫ ЦАРУ ГАРОХУ КАЛІ (ЯК) ЛЮДЗЕЙ БЫЛО ТРОХУ.** Гл. цару.

*ТРУБА* ● **ІЕРЫХ`ОНСКАЯ (ЕРЫХ`ОНСКАЯ) ТРУБ`А.** *Мн. не ўжыв. Часцей у знач. вык. Разм. Іран.* Чалавек з вельмі гучным голасам. *— Вот труба іерыхонская, — думае смірэнна сястра Аўдакія... — Дасць жа бог здароўе такое. Сакавіты яшчэ мужчына...* Лынькоў. *І собіла ж богу стварыць гэту трубу ерыхонскую!* Купала. *Мудрык.. выводзіць рулады, нібы трактар. Іерыхонская труба.* Навуменка.

**<ЯК> ІЕРЫХ`ОНСКАЯ (ЕРЫХ`ОНСКАЯ) ТРУБ`А.** *Мн. не ўжыв. Разм. Іран.* **1**. Ужыв. пры дзейн., выраж. словам *голас.* Вельмі гучны, моцны, прарэзлівы. *І сапраўды голас [Паўлаў] — як іерыхонская труба. Нізкі, сакавіты.* Танк. *[Людміла:] У мяне для артысткі ёсць абсалютна ўсё: рост, прыгожы, інтэлігентны твар, голас. Усе так і гавораць: у цябе голас як іерыхонская труба!* Маўзон. *Ну, брат Лукаш, і голас жа ў цябе: як труба ерыхонская!* Колас. *Кірыла быў шырачэзны асілак, шыя таўшчынёй як не з туляк.., а голас — труба ерыхонская.* Лупсякоў.

**2**. *Акал.* Вельмі гучна, моцна (грымець, крычаць і пад.). **Сін**.:

благім матам; з усіх жыл (у 2 знач.); колькі <было> сілы (у 3 знач.); на поўную сілу (у 3 знач.); на поўныя грудзі (у 2 знач.); на ўвесь голас (у 1 знач.); на ўвесь свет (у 1 знач.); на ўсе грудзі (у 2 знач.); на ўсе застаўкі (у 1 знач.); на ўсё горла; на ўсю глотку; на ўсю іванаўскую (у 1 знач.); на ўсю моц (у 3 знач.); немым голасам; не сваім голасам; што ёсць духу (у 2 знач.); што ёсць сілы (у 3 знач.); як недарэзаны; як рэзаны. *[Цівун:] Крычы, раві як ерыхонская труба, хай у цябе тысяча языкоў вырасце: «Пан памёр!»* Родзевіч. *[Паветрадуў] каля самай зямлі. Грыміць як іерыхонская труба. Глушыць людзей. Ад такога грукату любы ачмурэць можа.* Макарэвіч.

*ТРУБІЦЬ* ● **ТРУБІЦЬ У КУЛАК.** Гл. свістаць.

**ТРУБ`ІЦЬ У ФАНФ`АРЫ.** *Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Урачыста абвяшчаць што-н., празмерна хвалячыся. **Сін**.: біць у літаўры; званіць ва ўсе званы (у 2 знач.). *І члены партбюро, і іншыя камуністы на сходзе не спяшаліся, як кажуць, трубіць у фанфары, не замоўчвалі недахопы.* «Настаўн. газ.»

*ТРУБОЙ* ● **ВІЦЦА ТРУБОЙ.** Гл. віцца.

**ТРЫМАЦЬ ХВОСТ ТРУБОЙ.** Гл. трымаць.

*ТРУБУ* ● **ВЫЛЯТАЦЬ У ТРУБУ.** Гл. вылятаць.

**ПУСКАЦЬ У ТРУБУ** *што, каго.* Гл. пускаць.

*ТРУБЫ* ● **ПРАЙСЦІ <ПРАЗ> АГОНЬ І ВАДУ І МЕДНЫЯ ТРУБЫ.** Гл. прайсці.

*ТРУНЕ* ● **АДНОЙ НАГОЙ СТАЯЦЬ У ТРУНЕ.** Гл. стаяць.

**ПЕРАВЯРНУЎСЯ Б У ТРУНЕ.** Гл. перавярнуўся.

**У ТРУНЕ БАЧЫЎ** *каго.* Гл. бычыў.

*ТРУНУ* ● **ГЛЯДЗЕЦЬ У ТРУНУ.** Гл. глядзець

**ГНАЦЬ У ТРУНУ** *каго.* Гл. гнаць.

**ХОЦЬ У ТРУНУ КЛАДЗІ** *каго.* Гл. кладзі.

**ХОЦЬ У ТРУНУ ЛАЖЫСЯ.** Гл. лажыся.

*ТРУП* ● **ЖЫВ`Ы ТР`УП.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм.* Вельмі слабы, хворы, блізкі да смерці чалавек. **Сін**.: жывы нябожчык. *Даведаўшыся, што у Каляды быў партызанскі доктар, прыехалі эсэсаўцы, каб забраць яго, але, паглядзеўшы, махнулі рукой. «Гэта жывы труп», — сказаў эсэсаўскі афіцэр.* Гурскі.

**ПЕРАСТУПІЦЬ ЦЕРАЗ ТРУП** *чый.* Гл. пераступіць.

**<Т`ОЛЬКІ> Ц`ЕРАЗ М`ОЙ ТР`УП (Н`АШЫ ТР`УПЫ).** *Выкл. Разм.* Выказванне катэгарычнага пратэсту супраць якога-н. непажаданага дзеяння. *[Наташа:] А я ўсё роўна прарвуся. [Антаніна Васільеўна:] Цераз мой труп, Наташачка.* Крапіва.

*[Сяргей:] На гэтым пятачку мы паставім буравую. [Людміла:] Толькі цераз нашы трупы.* Дзялендзік.

*ТРУПАМ* ● **ЛЕГЧЫ ТРУПАМ.** Гл. легчы.

*ТРУС* ● **ТР`УС У К`АРТЫ НЕ ГУЛ`ЯЕ.** *Выкл. Разм.* Выказванне рашучасці перад прыняццем якога-н. рашэння. Што ні будзе, што ні здарыцца; трэба рызыкнуць. **Сін.**: адзін раз Марку жаніць; будзь што будзе; было не было; дзе наша не прападала; што будзе то будзе. *Перагаворы з мадзьярамі нічым не скончыліся. І калі мы рушылі наперад, яны ўсе трое пайшлі за намі. – Не. Ад іх не адчэпішся, – азірнуўся Лёня. – Твая праўда, Васіль. Кліч іх сюды, да купы… Трус, як кажуць, у карты не гуляе.* Няхай. [*Лепешаў*, с. 70: трус у карты не гуляе.]

*ТРУСА* ● **ЗАДАВАЦЬ ТРУСА.** Гл. задаваць.

**ТРУСА СВЯТКАВАЦЬ.** Гл. святкаваць.

*ТРУЦІЦЬ* ● **ТРУЦ`ІЦЬ ДУШ`У** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выклікаць непакой, хваляванне, трывогу. **Сін.**: выварочваць душу *чыю, каму*; вярэдзіць душу *каму, чыю*; вярэдзіць рану *каму, чыю*; муціць душу *каму, каго*; пераварочваць <усё> нутро *ў каго*; пераварочваць <усю> душу *чыю, каму, каго*; скрэбці за душу *каго. Валянцін пагражае: «От пашлю мацеры тэлеграму, тады паскачаш. Няхай прыедзе, палюбуецца на кульгавую нявестачку». А Іван спакойна адказвае: «Прыйдзе час, і без цябе адаб'ю тэлеграму, а пакуль што не труці мне душу».* Грахоўскі. *Не крыўдуй! Дзеля цябе ж адзіна! Ну што карысці было з самага пачатку табе душу труціць?* Ласкоў.

*ТРЫ* ● **БАЧЫЦЬ НА ТРЫ САЖНІ ПАД ЗЯМЛЁЙ.** Гл. бачыць.

**БАЧЫЦЬ НА ТРЫ САЖНІ Ў ЗЯМЛЮ.** Гл. бачыць.

**ГНУЦЦА Ў ТРЫ ПАГІБЕЛІ** *перад кім.* Гл. гнуцца.

**ГНУЦЬ У ТРЫ ПАГІБЕЛІ** *каго.* Гл. гнуць.

**ДРАЦЬ ТРЫ СКУРЫ** *з каго.* Гл. драць.

**ЛУПІЦЬ ТРЫ СКУРЫ** *з каго.* Гл. лупіць.

**ПАСЫЛАЦЬ НА ТРЫ ЛІТАРЫ** *каго.* Гл. пасылаць.

**ТРЫ БОЧКІ АРЫШТАНТАЎ** *нагаварыць.* Гл. бочку.

**ТРЫ КОРАБЫ.** Гл. карабоў.

**ТР`Ы ЧВ`ЭРЦІ** *да смерці.* *Акал. Разм.* Зусім нядоўга (да смерці засталося каму-н.). *Часамі ў свінушніку ціха стагнала праз сон свіння такім змарнелым, стомленым галаскам, усё роўна як бы ёй засталося тры чвэрці да смерці.* Колас. *Камісар... Камісар... Што з табою робіцца? Вазьмі сябе ў рукі... Мо тры чвэрці да смерці, а ты...* Міська. *—А ты пра стан эканамічны спытаў? —Мне вунь —*

*тры чвэрці да смерці...* Адамчык.

**УСТАЎЛЯЦЬ СВАЕ ТРЫ ГРОШЫ.** Гл. устаўляць.

**У ТРЫ ПАГІБЕЛІ.** Гл. пагібелі.

**У ТРЫ РУЧАІ.** Гл. ручаі.

**У ТРЫ СТОЛКІ.** Гл. столкі.

**У ТРЫ ШЫІ.** Гл. шыі.

**ЯК ТРЫ ГРОШЫ ДАЎ.** Гл. даў.

*ТРЫБУ* ● **ЗБІВАЦЬ З ТРЫБУ** *каго.* Гл. збіваць.

*ТРЫБУХАМІ* ● **З'ЕСЦІ З ТРЫБУХАМІ** *каго.* Гл. з'есці.

*ТРЫВОГУ* ● **БІЦЬ ТРЫВОГУ.** Гл. біць.

**ЗАБІЦЬ ТРЫВОГУ.** Гл. забіць.

*ТРЫДЗЕВЯЦЬ* ● **ЗА ТРЫДЗЕВЯЦЬ ЗЯМЕЛЬ.** Гл. зямель.

*ТРЫЗНЕННЕ* ● **ТР`ЫЗНЕННЕ (МР`ОЯ) СІВ`ОЙ КАБ`ЫЛЫ.** *Мн. не ўжыв. Вык. ці дап. Разм.* Часцей ужыв. пры дзейн., выраж. займ. *гэта.* Тое, што пазбаўлена ўсякіх падстаў; бяссэнсіца. **Сін**.: грушы на вярбе. *Запіска ад мяне да Мар'яна. Падробленая маім почыркам, але на маёй паперы. Хто мог здабыць яе? Мар'ян? Хілінскі? Трызненне сівой кабылы.* Караткевіч. *[Паводле плана «Барбароса»] працэнтаў восемдзесят тубыльцаў меліся ісці пад нож, астатнія ж на анямечаных слугаў – гэтая мроя сівой кабылы спасылалася на гістарычны вопыт Тэўтонскага Ордэна.* Чобат.

*ТРЫМАЕЦЦА* ● **ВАДА НЕ ТРЫМАЕЦЦА** *на кім.* Гл. вада.

**СВЕТ ТРЫМАЕЦЦА** *на кім, на чым.* Гл. свет.

**У ЧЫМ <ТОЛЬКІ> ДУША ТРЫМАЕЦЦА** *ў каго, чыя.* Гл. душа.

*ТРЫМАЙ* ● **ТРЫМ`АЙ КІШ`ЭНЬ (-І) ШЫР`ЭЙ!** *Толькі ў гэтай форме. Выкл. Разм.* Не спадзявайся, не разлічвай на што-н., не чакай чаго-н. **Сін**.: знайшоў дурня; нічога падобнага; няма дурных (у 1 знач.); скулу ў бок *каму*; чорта з два (у 1 знач.); чорта лысага (у 1 знач.); як бы не так. *[Цыганок:] Дык вы яму верце, ці то пан хоча нам добрае дзела зрабіць! Трымай кішэні шырэй! Аддасць ён зямлю!* Грамыка. *Ад папоў і дыяканаў няма чаго добрага нам чакаць! Ого, дачакаешся ад кудлаў і лайдакоў, а як жа — кішэнь трымай шырэй!* Карпюк.

*ТРЫМАЙСЯ* ● **Т`ОЛЬКІ ТРЫМ`АЙСЯ.** *Выкл. Разм. Часцей адабр.* Выказванне высокай ацэнкі сілы, якасці і пад. чаго-н. **Сін**.: адно дзяржыся! *Ты пагутар яшчэ з адным-другім з лепшых хлопцаў, а я прыйду да вас і арганізуем... Вось тады, брат, запрацуем, толькі трымайся.* Галавач. *Такі верш накатаў я, што толькі трымайся, — ух, ёмкі верш.* Каваль. *Цяпер памчыць [цягнік] пад горку, толькі трымайся...*Лынькоў.

*ТРЫМАЦЦА* ● **НА НАГ`АХ НЕ ТРЫМ`АЦЦА.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры

дзейн. са знач. асобы. Не магчы хадзіць, рухацца (ад стомленасці, слабасці, хваробы і інш.). **Сін**.: валіцца з ног *<ад чаго>*; выбівацца з сіл (у 1 знач.); высалапіць язык; заставацца без ног; збівацца з ног; зямлі не чуць пад сабой (у 2 знач.); ледзь ногі цягаць (у 1 знач.); ледзь стаяць на нагах (у 1 знач.); ледзь шоры цягаць; не чуць ног; не чуць ні рук ні ног. *Іншы на нагах не трымаецца, а клянецца, што век, зроду не піў.* Ракітны.

**ТРЫМ`АЦЦА АБ`ЕДЗВЮМА РУК`АМІ** *за каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Высока цаніць каго-н., даражыць кім-н. *Праўда, каб яна сказала дома, што да яе заляцаецца такі хлопец, ды яшчэ майстар, — пэўна ж, адразу сказалі б, што не будзь дурніцай, не адпіхвай яго, а трымайся абедзвюма рукамі.* Дамашэвіч. *А ты, дурань, падумала [Антаніна] пра Аляксея, замест таго, каб абедзвюма рукамі трымацца за такую прыгажуню, яшчэ круціш носам...* Радкевіч.

**ТРЫМ`АЦЦА ЗА СПАДН`ІЦУ** *чыю. Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць у поўнай залежнасці ад жанчыны. Пра мужчыну. *[Даніла:] Ну, а як там хлопцы? Рыгор як маецца? Не збіраецца да нас? Нешта Скіба крывіўся, гаворачы пра яго. [Батура:] Як жа маецца... За спадніцу трымаецца.* Крапіва. *Андрэй можа не ўседзець у яе баковачцы, пад яе жаночай апекай. Ды і злавацца за гэта нельга. Што ж за мужчына, які трымаецца за бабскую спадніцу!* Арабей. *Зрэдку толькі надакучвалі хлопцы: «Што ты за жончыну спадніцу трымаешся... паехалі на гонкі».* Кcallановіч.

**ТРЫМ`АЦЦА НА АДЛ`ЕГЛАСЦІ** *ад каго, з кім. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не ўступаць у блізкія адносіны, сувязі з кім-н. *Сурміла трымаўся на адлегласці з падначаленым, раўніва клапаціўся пра свой аўтарытэт...* Блакіт. *Усе гэтыя гады Радзевіч так і не падпусціў да сябе, трымаўся на адлегласці.* «Маладосць».

**ТРЫМ`АЦЦА НА ВАЛАСК`У.** *Разм. Незак.* Часцей. ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Знаходзіцца ў вельмі ненадзейным, небяспечным становішчы. **Сін**.: вісець на валаску. *Пасля двух вяселляў убачыў стары Бацян, што гаспадарка яго трымаецца, як кажуць, на валаску, і, каб крышку ўзняць яе, кінуўся шукаць заробкаў.* Чарнышэвіч. *Цэх не выконвае план, абсталяванне трымаецца на валаску, якасць прадукцыі нізкая.* Кананові.

**ТРЫМ`АЦЦА НА ПАВ`ЕРХНІ** *<чаго>. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Быць вядомым, мець папулярнасць дзе-н. *Пяць шлюбаў, публічная дэманстрацыя*

*прыхільнасці да алкаголю, яхты і іншыя атрыбуты жыцця «зорак» дазволілі Бартану трымацца на паверхні свецкага тлуму і тым самым быць у полі зроку Галівуда.* «ЛіМ». *Інтуіцыя дазваляла яму [Цыгулеву] трымацца на паверхні пры самых нечаканых зменах пагоды ў міністэрскіх калідорах.* Радкевіч. *Гэта творчасць не ўзбагачае культуру народа, а самі творы трымаюцца год-два на паверхні і бясследна знікаюць.* Кучар.

**ТРЫМ`АЦЦА Ў БАК`У** *ад каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не ўступаць у блізкія адносіны, сувязі з кім-н. *У семінарыі ён [Тукала] трымаўся ў баку ад сваіх таварышаў і ўсё нешта думаў.* Колас. *Нямко не любіў, калі хто лез яму ў вочы з рознымі пытаннямі ці размовамі, таму ён больш і трымаўся ў баку ад людзей.* Кулакоўскі. *Настаўніца за адзін год здолела дабіцца, што Сяргей ужо не хаваў вочы ад людзей, не трымаўся ў баку ад аднагодкаў.* «Звязда».

**ТРЫМ`АЦЦА Ў Р`АМКАХ** *чаго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Захоўваць нормы, правілы чаго-н., не выходзячы за іх межы. *[Русаковіч:] Затое вы... якраз такая фігура, каб засланіць шлях да добрай справы. [Сухадольскі:] Я вас папрашу трымацца ў рамках дзелавой размовы.* Крапіва.

*ТРЫМАЦЬ* ● **ТАК ТРЫМАЦЬ!** *Выкл. Функц. не зам. Адабр.* Заклік ці пажаданне і надалей прытрымлівацца ранейшай лініі паводзін. *Пылец па-сяброўску ляпае Алеся па плячы: — Так трымаць, старшына! Гэтак, здаецца, па-флоцку?* Шамякін. *Малайчына, Андрэй, так трымаць, я ведаў, што ты не здасіся ўсякім жыццёвым перапетыям.* Капыловіч. *Зніклі хранічныя хваробы, амацнеў імунітэт, а галоўнае — фантастычным чынам намецілася відавочнае выпрамленне пазваночніка. Урачы трэслі ад замілавання руку пацыенту, зычылі: так трымаць*! Андзілеўка.

**ТРЫМ`АЦЬ В`УХА В`ОСТРА.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Апасаючыся чаго-н., быць вельмі пільным, быць напагатове. *Малады фарсісты афіцэрык аддаў распараджэнне.. паставіць варту, адзначыў, дзе варта павінна быць асабліва пільнай, загадаў наладзіць сувязь, выслаць дазоры і наогул трымаць вуха востра.* Колас. *Нешта, значыцца, здарылася, і мне трэба трымаць вуха востра,ісці з падвоенай перасцярогай.* Шамякін.

**2**. *<з кім>*. Не давярацца каму-н., быць асцярожным з кім-н. *[Туміловіч:] Гэта такія людзі, Аўдоцця Захараўна, што з імі трэба трымаць вуха востра.* Крапіва. *І што ён за чалавек, Яфім Пятровіч? З аднаго боку, як быццам нішто, жартаўнік. А з другога... З ім трэба*

*вуха востра трымаць.* «Полымя».

**ТРЫМ`АЦЬ ВЫС`ОКА СЦ`ЯГ** *чаго, каго, чый. Незак. Кніжн. Узнёсл.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. З годнасцю прадаўжаць і развіваць што-н., падтрымліваючы гонар, рэпутацыю каго-н. **Сін**.: трымаць марку. *І мы павінны пастарацца намовам розным не паддацца і ворагу на страх трымаць высока сцяг грамадзяніна!* Колас. *Высока трымаем сцяг працы і абароны.* Чорны. *На з'ездзе прысягу прымаем і сцяг свой высока трымаем.* Панчанка.

**ТРЫМ`АЦЬ (ВЫТР`ЫМЛІВАЦЬ) М`АРКУ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. З годнасцю падтрымліваць гонар, рэпутацыю каго-, чаго-н., захоўваць патрэбныя нормы паводзін. **Сін**.: трымаць высока сцяг *чаго, каго, чый. —Касец-ігрэц! Ды вельмі ж стараецца! —Марку ж трэба трымаць!* Мележ. *Маладзейшы па ўзросту за падначаленых, ён [Халурка] не ў прыклад ім трымаў марку і, седзячы кожны раз за адным і тым жа столікам, стараўся размаўляць з Галяй без жадання здабыць прыхільнасць.* Карпаў. *Пры такіх неспрыяючых абставінах даводзілася асобаатрадчыку вытрымліваць марку.* Самуйлёнак. **ВЫТРЫМАЦЬ МАРКУ.** *Зак.*

**ТРЫМ`АЦЬ ВЫШ`ЭЙ ГАЛАВ`У.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пераставаць сумаваць, адчайвацца, паводзячы сябе горда, з пачуццём уласнай годнасці. **Сін**.: трымаць хвост трубой. *Ай, які ты, Даніла! Ну, ці ж можна быць нюняй гэткай? Трэба.. вышэй галаву трымаць.* Зарэцкі. *Адным словам, не губляй, Верачка, гумару і трымай вышэй галаву.* Машара.

**ТРЫМ`АЦЬ ЗА ЯЗ`ЫК** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Стрымліваць каго-н. у выказванні, не дазваляць каму-н. выказвацца. *А маці слухае маўкліва, аб чымся думае тужліва; сказаць штось хоча і ўздыхае, што за язык яе трымае.* Колас.

**ТРЫМАЦЬ КАМЕНЬ ЗА ПАЗУХАЙ.** Гл. насіць.

**ТРЫМ`АЦЬ Л`ЕЙЦЫ <У СВА`ІХ РУК`АХ>.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ажыццяўляць кіраўніцтва, кіраваць чым-, кім-н. **Сін**.: весці рэй; даваць тон <*каму, чаму, у чым*>; іграць першую скрыпку *ў чым*; камандаваць парадам; рабіць пагоду <*у чым, дзе*>. **Ант**.: іграць другую скрыпку *ў чым. Заменіш мяне на час ад'езду на пленум. Так што трымай тут лейцы добра.* Пестрак. *Іваніха, хоць і ў гадах ужо, і нямоглая, сама яшчэ трымала лейцы — коратка і моцна.* Брыль. *—Хопіць вам вылузвацца, пеўні, — усміхнуўся Юркавец. —Лейцы трымаць Алесю Антонавічу, я казаў вам ужо.* Шыцік. *Пры першых сустрэчах ён [Андрэй] усё-такі*

*трымаў лейцы ў сваіх руках: прымусіў Таню прыязджаць на рэпетыцыі, паехаў для таго і да старшыні, і да Танінай маці і прыкрыкваў на яе, калі яна ўпарцілася.* Іпатава.

**ТРЫМ`АЦЬ НА АДЛ`ЕГЛАСЦІ** *каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пазбягаць блізкіх адносін, сувязей з кім-н. *Праўда, я і цяпер лічу, няма чаго цырымоніцца з некаторымі... Стражэйшым і ты быў бы. Трымай лепш кожнага на адлегласці.* Ярашэвіч. *[Майстар:] Ты не адзін раз казаў мне, што вучняў трэба трымаць на адлегласці. Ці не ў гэтым твая памылка?* Кобец-Філімонава.

**ТРЫМ`АЦЬ НА ВАЧ`АХ (НА В`ОКУ)** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Улічваць, браць пад увагу. **Сін**.: мець на воку *каго, што* (у 2 знач.); мець на ўвазе (у 2 знач.); мець у воку *каго, што. Як бачыш, што каторая троху прыхільна да нашае справы, дык ужо і трымай на воку яе.* Зарэцкі. *Я лічу, што нам у той час неабходна будзе звярнуць увагу на Шумілава, трымаць на вачах усякі рух у гэтай мясцовасці.* Чарнышэвіч. — *Бадытчык не запусціць. З ім можна спакойна. Трэба на воку трымаць... —ён назваў некалькі калгасаў. —А гэтыя самі справяцца.* Лобан.

**ТРЫМ`АЦЬ НА ПР`ЫВЯЗІ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не даваць каму-н. свабоды ў дзеяннях, учынках і пад. **Ант**.: даваць волю (у 1 знач.). *Хіба гэта вучоба, калі трымаеш іх [дзяцей] на прывязі ў школе, а яны рвуцца паглядзець, як кавалерыя рухаецца на фронт?* С.Александровіч. *Валька.. далася яму яшчэ раз пацалаваць — трэба ж хлопца на прывязі трымаць.* Лобан. *[Бяссмертны:] Каб толькі мой доктар доўга не трымаў мяне на прывязі.* Дамашэвіч.

**ТРЫМ`АЦЬ НА <СВА`ІХ> ПЛЯЧ`АХ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. *каго, што.* Забяспечваць сродкамі на жыццё. *А хто ж вас, праклятых, на плячах трымае? Эх вы, дармаеды, моль вы, вош людская!* Колас. *Адкуль толькі браліся сілы ў гэтай маленькай зграбнай жанчыне, каб трымаць на сваіх плячах сям'ю з незлічонымі хатнімі клопатамі, з тысячамі непрыкметных драбніц, з якіх складаецца сямейнае жыццё.* Новікаў.

**2**. *што.* Быць, служыць апорай чаму-н. *Вёска — гэта людзі, якія трымаюць на сваіх плячах усю гаспадарку.* Дуброўскі. *Механізатар цяпер галоўная сіла на сяле. Трыццаць ці сорак такіх, як Мікола, трымаюць на сваіх плячах саўгас.* Навуменка.

**ТРЫМ`АЦЬ (НАС`ІЦЬ) ХВ`ОСТ ТРУБ`ОЙ (ДУД`ОЙ,**

**АБАР`АНКАМ, ПІСТАЛ`ЕТАМ).** *Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Трымацца ўпэўнена, з гонарам, не баючыся, не сумуючы. **Сін**.: трымаць вышэй галаву. *Трымайцеся, дзядзька, і трымайце хвост трубою.* Колас. *Хадзем, браце, апранацца, наводзіць глянец. Як сябе ні адчуваеш, а, як той казаў, хвост трэба трубой трымаць.* Сабаленка. *Не, думаю, бавар Вейс! Гэта ты тут, на полі, такі. Перад рускім хвост трымаеш трубой. А што ты думаеш ноччу?* Ракітны. *Нос [у Грэчкі] завастрыўся. Вочы ўпалі. Махоркі няма, смокча пустую люльку, але хвост, як кажуць, трымае дудой...* Няхай. *Усе яны такія... Цяпер плача. У слёзы. А перш? Калі яе Раман злёг, дудой хвост насіла.* Пташнікаў. *Першым подмаразкам, акурат перад тым, як немцам збілі гонар пад Масквой і яны перасталі насіць хвост абаранкам, у гарадок заявіўся Алёша Бразгунок.* Лужанін. *А што калі рыжы яго падпільноўвае? Неабходна трымаць хвост абаранкам.* Гурскі. *Не журыся, Філат. Усё будзем пароўну дзяліць — і славу, і няславу, і клопат... Трымай хвост пісталетам...* Масарэнка. *Ты нос не вешай. Трымай хвост пісталетам. Я цябе не праганю.* Марчук.

**ТРЫМ`АЦЬ Н`ЕРВЫ (С`ЭРЦА) У КУЛАК`У (У РУК`АХ).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Захоўваць самавалоданне, вытрымку, стрымліваць парывы сваіх пачуццяў. **Сін**.: валодаць сабой; стрымліваць сябе; трымаць сябе ў руках. *Нічога, галоўнае не распускацца, трымаць нервы ў кулаку. Не плакацца...* Гігевіч. *[Аксіння:] З Раманам мы згаварыліся ўжо... Мужам ён быў мне... А ты яго пад суд. Дык што ты мне загадаеш — дзякаваць табе за такую ласку? Маўчала, у кулаку сэрца трымала, а болей не магу!* Макаёнак. *Такія звесткі ёсць. Але ты забудзься пра гэта на нейкі час, трымай свае нервы ў руках. Табе давяраецца не абы-што.* Брыль.

**ТРЫМ`АЦЬ Н`ОС ПА В`ЕТРЫ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Беспрынцыпова мяняючы свае паводзіны, прыстасоўвацца да абставін, падладжвацца да каго-, чаго-н. —*Трэба прасіць Гайдача даць контркрытыку. — Пабаіцца... Ён трымае нос па ветры. Цяпер, чаго добрага, лаяць пачне.* Бядуля. *У той час пасля далучэння Гомельшчыны да Беларусі пачалі мяняць шыльды, асабліва ўвішныя прыватнікі, якія заўсёды стараліся трымаць нос па ветры.* Сабаленка. *Як вядома, ёсць «модныя» паэты, што трымаюць, як кажуць, нос па ветры, ведаюць, што, калі і каму трэба, умеюць дагадзіць — тэмай, рыфмай, сугалоссем...* Гніламёдаў.

**ТРЫМ`АЦЬ П`ОРАХ СУХ`ІМ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры

дзейн. са знач. асобы ці (часцей) сукупнасці асоб. Быць у пастаяннай гатоўнасці да абароны. *Мы чуем шум трывог на долах і вучым кожны крок і рух: —Трымаць сухім заўсёды порах на час паўторных завірух.* Хадыка. *—Яшчэ барацьба не скончана, — заключыў Сцяпан, — трэба порах трымаць сухім!* Пестрак. *Вораг гатоў выкарыстаць любую нашу слабасць, любы зручны момант. Гэта абавязвае нас быць увесь час напагатове, трымаць порах сухім.* Мележ. *І адсюль абавязак арміі: кожную гадзіну мацаваць і мацаваць абароназдольнасць і порах трымаць сухім заўсёды...* Савіцкі.

**ТРЫМ`АЦЬ ПРЫ САБ`Е** *што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не выказваць уголас, публічна (сваіх думак, поглядаў і пад.). **Сін**.: браць рот на замок; і пары з рота не пусціць; прытрымліваць язык; трымаць язык за зубамі; трымаць язык на замку; трымаць язык на прывязі. *Думкі свае Коля, аднак, пакуль што трымаў пры сабе.* Жычка. *Маці здавалася больш засяроджанай, спакойнай, свае пачуцці і думкі трымала пры сабе.* Дамашэвіч.

**ТРЫМ`АЦЬ (ПРЫТР`ЫМЛІВАЦЬ) ЯЗ`ЫК ЗА ЗУБ`АМІ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нічога не гаварыць лішняга, быць асцярожным у выказваннях; маўчаць, калі трэба. **Сін**.: браць рот на замок; і пары з рота не пусціць; прытрымліваць язык; трымаць пры сабе *што*; трымаць язык на замку; трымаць язык на прывязі. *[Заслонаў:] Між іншым, Аня, скажыце свайму Жэню, каб ён трымаў язык за зубамі І вам, старыя, раю тое самае... Так будзе лепш.* Маўзон. *Табе, дзяцюк, трэба навучыцца трымаць язык за зубамі.* Чарнышэвіч. *—Ты язык за зубамі прытрымлівай! — ашчэрыўся стараста.* Каваль. **ПАТРЫМАЦЬ (СТРЫМАЦЬ) ЯЗЫК ЗА ЗУБАМІ.** *Зак. Гаворкі пра Маслака ўжо не вялі: не ў ахвоту гаворка гэта, рызыкоўная, лепш язык за зубамі патрымаць.* Мележ. *Лепш пакуль што патрымаць язык за зубамі, ні ў чым не прызнавацца.* Сачанка. *Заўсёды знаходзяцца людзі, якім лягчэй, здаецца, памерці, чым стрымаць язык за зубамі.* Шамякін.

**ТРЫМ`АЦЬ РУК`У** *каго, чыю. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Цалкам падтрымліваць каго-н., быць на чыім-н. баку. *Жывучы пры іх, Вінцэнты трымаў руку то аднаго, то другога, як калі.* Чорны. *[Глуздакоў:] Значыць, яна руку зяця трымае. [Лявон:] Бо дурніца.* Макаёнак. *Вось людзі кажуць, што з Украіны немец сюды пасоўваецца, і кажуць яшчэ, што ён трымае панскую руку.* Колас.

**ТРЫМ`АЦЬ РУК`У НА П`УЛЬСЕ** *чаго. Незак. Функц. не зам.*

Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Быць у курсе падзей, сочачы за іх развіццём. *Будзем цаніць відочныя намаганні ісці ў нагу з часам, трымаць руку на пульсе жыцця, актыўна ўступаць у размову з чытачом, шукаць жывыя і цікавыя формы гэтай размовы.* Гілевіч. *Паэт трымаў руку на пульсе часу, апяваў жыццё ў яго перспектыве.* Свірка. *Тамара Іванаўна ў курсе ўсіх спраў, як кажуць, трымае руку на пульсе корманарыхтоўкі.* «Звязда». *Калгас — гэта шматгаліновы арганізм. Кіраваць ім не проста, трэба ўвесь час трымаць руку на пульсе жыцця.* Супрунчук.

**ТРЫМ`АЦЬ <СВА`Ё> СЛ`ОВА.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выконваць абяцанне. **Ант**.: хвастом накрыцца (у 1 знач.). *—Чалавек, які слова не трымае, сабакі не варты, — адказаў Хуцышвілі.* Самуйлёнак. *—Я рад, Баніфацый, што ты даў згоду на яневіцкую аперацыю... —Я трымаю сваё слова, Франак.* Чарнышэвіч. **СТРЫМАЦЬ <СВАЁ> СЛОВА.** *Зак. [Машэка:] Князь не хоча нас у спакоі пакінуць. Ён клятву сваю парушыў, слова свайго не стрымаў.* В. Вольскі. *Бацька стрымаў сваё слова: на мачыху глядзеў мірна, бедны падарунак, на які толькі і наскраблі грошай — картовыя штаны ў пасачку — даў маладому ветліва, зычліва.* Мележ.

**ТРЫМ`АЦЬ СЯБ`Е.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Трымацца пэўным чынам. Пра манеру хадзіць, сядзець, размаўляць і пад. *Была ў гэтай сябрыне і Зося Хлябцэвіч, мінчанка, дзяўчына вялікай прыгажосці, хоць некаторыя казалі, што прыгажосць яе мае ў сабе многа рыс ад умельства трымаць сябе. Можа, і так.* Чорны. *Усе паглядзелі на Бонч-Бруевіча, але ён прамаўчаў, зрабіў выгляд, што недачуў. Сярод прысутных — ён самы інтэлігентны з генералаў і ўмеў сябе трымаць.* Гурскі.

**2**. Дзейнічаць якім-н. чынам, прытрымлівацца якой-н. лініі паводзін. **Сін**.: паводзіць сябе. У *разгубленай, расстроенай Валі ўзнікла адчуванне — яна абавязкова ўбачыць Лёдзю. Пра што, цікава, скажа тая? Як будзе трымаць сябе?* Карпаў. *Сяргей умеў трымаць сябе, і цяпер ён адчуваў сябе якраз вось гэтым цэнтрам, хоць не ён адзін кіраваў падзеямі, а на ход іх уплывалі і тыя, што былі побач з ім на зямлі.* Шахавец.

**ТРЫМ`АЦЬ СЯБ`Е Ў РУК`АХ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Захоўваць самавалоданне, вытрымку, стрымліваць парывы сваіх пачуццяў. **Сін**.: валодаць сабой; стрымліваць сябе; трымаць нервы ў кулаку. *Як ні трымаў сябе ў руках Андрэй, але і ў яго вачах бліснула слязінка.* Колас. *За час*

*неспакойнай разведчыцкай службы ён [Іван] навучыўся трымаць сябе ў руках.* Новікаў. *Вера таксама, відаць, пачала мірыцца са сваім горам, бо не так ужо плакала, як першы раз, навучылася трымаць сябе ў руках.* Машара.

**ТРЫМ`АЦЬ У ГАЛАВ`Е** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Пастаянна помніць, думаць пра каго-, што-н. *Ты прабач мне... Мы яшчэ па балоце лазілі, а я ўсё трымала ў галаве... каб гэта... Ну, прабачэння папрасіць за грубасць.* Місько. *Могуць і яго [Корзуна] падключыць да каго-небудзь у дапамогу. А які з яго памочнік, калі ўсё роўна падсвядома будзе трымаць у галаве Рамейку.* Шыцік. *—А навошта бам трымаць у галаве цэлую тэлефонную кніжку? — здзівілася Ганна Паўлаўна.* Чавускі.

**2**. Меркаваць, мець намер. *—Выселіць Вінцанцюка назад, штосьці ці не трымае ён у галаве... —Калі гэтакая недаверлівасць, дык аддзяліце мне дзялянку, я выберуся.* Чорны.

**ТРЫМ`АЦЬ У К`УРСЕ** *<чаго> каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пастаянна інфармаваць каго-н. аб ходзе, развіцці чаго-н. *[Варановіч:] Не бойся, будзем вас трымаць у курсе. Ды ты яшчэ не раз у Мінску будзеш.* Глебка. *—Гэта ўжо зроблена, радыёграма з прапановай перамір'я немцам паслана ўжо. — Трымайце нас увесь час у курсе спраў. —Абавязкова.* Гурскі. *—Ты не маўчы, — адказаў Рэпс, — трымай мяне ў курсе.* Шыцік.

**ТРЫМ`АЦЬ ЯЗ`ЫК НА ПР`ЫВЯЗІ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Захоўваць што-н. у тайне, быць асцярожным у выказваннях; маўчаць, калі трэба. **Сін**.: браць рот на замок; і пары з рота не пусціць; прытрымліваць язык; трымаць пры сабе *што*; трымаць язык за зубамі; трымаць язык на замку. *Не разважаць, чурбан яловы! Трымаць на прывязі язык!* Колас. *[1-ы рабочы:] Язык трымаць на прывязі не ўмею. Пайшлі.* Клімковіч. *Ясь.. абяцаў сам дамовіцца са старою, заплаціць ёй так, каб яна трымала язык на прывязі.* Чарнышэвіч.

**ТРЫМ`АЦЬ ЯЗ`ЫК (Р`ОТ) НА ЗАМК`У.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Захоўваць што-н. у тайне, быць асцярожным у выказваннях; маўчаць, калі трэба. **Сін**.: браць рот на замок; і пары з рота не пусціць; прытрымліваць язык; трымаць пры сабе *што*; трымаць язык за зубамі; трымаць язык на прывязі. *Я-то знаў, што Зіна ў цёткі Евы, толькі на замку язык трымаў.* Зуёнак. *— Калі ты такое будзеш расказваць у сваёй агенцыі, цябе пасадзяць за краты... —О, не хвалюйся. Там я трымаю рот на замку. Гэта я толькі табе гавару.* Прокша.

*ТРЫМАЮЦЬ* ● **НОГІ НЕ ТРЫМАЮЦЬ** *каго.* Гл. ногі.

*ТРЫН* ● **ТР`ЫН-ТРАВ`А** *для каго, каму. У знач. вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета ці (рэдка) асобы. Не заслугоўвае ніякай увагі, не мае значэння, не хвалюе каго-н. **Сін**.: да аднаго месца *каму*; да лямпачкі *каму*; да фені *каму*; ні ішоў <і> ні ехаў *каму;* па барабану *каму. Сядзіць пташына ў іншай клетцы, на смутак твой не адгукнецца, і для яе ты — трын-трава!* Колас. *Звінела б тая струна ды брала нас за жывое! Астатняе ўсё — нажыўное, астатняе ўсё — трын-трава!* Вярцінскі. *—Нечакана неяк. —А што чакаць, калі цаніць жыццё не можаце. Вам яно трын-трава. Тут жаніўся, тут развёўся. А дзетак — на каго?* Карамазаў. *Пэўна, шчаслівыя людзі, хто можа ні аб чым не думаць, ні пра што не хвалявацца... А мо і няма такіх? Толькі выгляд робяць, што для іх ўсё трын-трава.* Блакіт. *«Рана табе ўздыхаць, сынок. Бацька не ўздыхае, бацьку ўсё трын-трава, – бліскала злосць на мужа. – А хлопчык, што перайшоў у пяты клас, уздыхае».* Шамякін.

*ТРЫЦЦАЦЬ* ● **НА ЎСЕ ТРЫЦЦАЦЬ ДВА <ЗУБЫ>.** Гл. зубы.

**ТР`ЫЦЦАЦЬ СЯР`ЭБРАНІКАЎ (СР`ЭБРАНІКАЎ).** *У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Пагард.* Плата за здраду, цана здрады. *А хто ён для адзінакроўных? Здраднік. Юда. Яны яму ніколі не даруюць заробленых трыццаці сярэбранікаў... Ды якія гэта сярэбранікі? Транты. Новая збруя і два мяхі мукі?* Карпаў. *Трыццаць срэбранікаў — вось усё, што дастаткова для здрадніцы і дасталося Паліне за мужа, які кахаў і шанаваў яе.* Новікаў. *Навошта бяссрэбранікам серабро? Яны серабром не трызняць. Не прадаюць тым болей сяброў за срэбранікаў трыццаць.* Вярцінскі.

*ТРЫШКАЎ* ● **ТРЫШКАЎ КАФТАН.** Гл. кафтан.

*ТРЭБА* ● **ДАЛ`ЁКА ХАДЗ`ІЦЬ НЕ ТР`ЭБА (НЕ ПАТР`ЭБНА)** *за чым. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Лёгка назваць (прыклад, факт і пад.), каб пацвердзіць што-н. *Чалавек працы ўзняты на небывалую вышыню, акружаны ўсеагульнай пашанай і ўвагай. А за прыкладамі тут, як кажуць, далёка хадзіць не трэба.* «Настаўн. газ.» *Некалі беларус быў слаўны і магутны, і далёка чуваць было яго за межамі. Далёка не трэба хадзіць за гістарычнымі фактамі.* Мурашка. *[Кліменці:] Пашто паклёп узводзіш на таго, каго зусім не ведаеш? [Антоні:] Хай так, хаця за прыкладам хадзіць далёка не патрэбна: здрада народу, мове, богу ў баяр у нашых не навіна, Кліменці.* Клімковіч.

**ТАК І ТРЭБА.** Гл. так.

**ТР`ЭБА Д`УМАЦЬ.** *У знач. пабочн. сл. Функц. не зам.* Напэўна, мабыць. **Сін**.: глядзі што; хутчэй за ўсё; як відаць. *[Гарлахвацкі:}*

*Чарнавуса ўпарадкаваў збольшага. Кніга яго свету не ўбачыць, з работы яго, трэба думаць, таксама знімуць адусюль.* Крапіва.

**ШТО ТР`ЭБА.** *Разм.* **1**. *Акал.* Вельмі добра (рабіць што-н.). **Сін**.: будзь-будзь (у 1 знач.); будзь здароў (у 1 знач.); дай бог (у 1 знач.); дай бог кожнаму (у 2 знач.); дзякуй богу (у 1 знач.); за маё-маё (у 1 знач.); за маліну (у 2 знач.); з бляскам (у 1 знач.); кум каралю <і сват міністру> (у 3 знач.); люба-дорага; на дзіва (у 2 знач.); на поўнае вока; на пяць з плюсам; на славу (у 1 знач.); на ўсе сто (у 2 знач.); на яць (у 1 знач.); разлюлі-маліна (у 2 знач.); слава богу (у 1 знач.); хвала богу (у 1 знач.); хоць куды (у 2 знач.); як не трэба лепш. *Прапаршчык пашкроб патыліцу: — Стралялі ўсе выдатна. Па страявой рубаюць што трэба.* Хомчанка. *Адпачыў, брат, што трэба. Сіняе мора, сонца, бесклапотнасць.* Навуменка.

**2**. *Вык. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Вельмі добры; такі, што заслугоўвае высокай ацэнкі. **Сін**.: адным словам; без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); будзь-будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); кругом сто дваццаць; на славу (у 2 знач.); на ўсе рукі; на ўсе сто (у 3 знач.); на яць (у 2 знач.); па крайняй меры (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога; першай гільдыі (у 1 знач.); першай рукі (у 1 знач.); першы клас; першы сорт; разлюлі-маліна (у 1 знач.); рэдкай рукі; слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; як яечка. *А ён цяпер гаспадар што трэба. Зямлю падзяліў у Логары, самы лепшы кавалак сабе ўзяў.* Машара. *Ці то выпітая гарэлка, ці гэтае незразумелае трывожнае адчуванне, і гэты баяніст — рукі ў яго — што трэба — рабілі яго [Максіма] добрым, пакладзістым.* Кудравец. *Генка не бедаваў: жыў дома, у маці, будоўля што трэба, з размахам, ды яшчэ і Лукіч, свой чалавек, — самы блізкі, непасрэдны, як кажуць, начальнік.* Карамазаў. *Экіпаж – што трэба. І не адстане, і ў бок не занясе.* Пашкоў.

**ЯК НЕ ТР`ЭБА Л`ЕПШ (Л`ЕПЕЙ).** *Акал. Разм.* Вельмі добра, выдатна, выключна (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін**.: будзь-будзь (у 1 знач.); будзь здароў (у 1 знач.); дай бог (у 1 знач.); дай бог кожнаму <у 2 знач.); дзякуй богу (у 1 знач.); за маё-маё (у 1 знач.); за маліну (у 2 знач.); з бляскам (у 1 знач.); кум каралю <і сват міністру> (у 3 знач.); люба-дорага; на дзіва (у 1 знач.); на поўнае вока; на пяць з плюсам; на славу (у 1 знач.); на ўсе сто (у 2 знач.); на яць (у 1 знач.); разлюлі-маліна (у 2 знач.); слава богу (у 1 знач.); хвала богу (у 1

знач.); хоць куды (у 2 знач.); што трэба (у 1 знач.). *Усё было вылічана і вымеркавана як не трэба лепш.* Чорны. *[Гудовіч:] Радавацца трэба, а не плакаць. Усё складваецца як не трэба лепш* Крапіва. *З усім гэтым як не трэба лепш спраўляецца брыгадзір жывёлагадоўчай фермы Міхал Шут.* Палтаран. *Настаўнікі з вялікай прыемнасцю выкупаліся, папесціўшы голае цела на гарачым пяску прыбярэжжа, асвяжыліся і пачуліся як не трэба лепей.* Колас. *Дзякуем, дзякуем пану гаспадару і пані гаспадыні. Падмацаваліся, хвала богу, як лепей не трэба.* Купала.

**ЯК (НІБ`Ы) НАЗ`АЎТРА ТР`ЭБА.** *Акал. Разм.* Вельмі марудна, зусім не спяшаючыся (рабіць што-н). **Сін**.: як мокрае гарыць (у 1 знач.). *А ці хутка адтуль малады ваш выберацца? Нешта ён збіраецца як назаўтра трэба.* Крапіва. *[Мохаў] ідзе нібы назаўтра трэба.* Шынклер. *—Цяпер можаце сабе адпачыць, дазваляю, — сказала Харошка. —Ён едзе як назаўтра трэба.* Мурашка. *Нокне дзядуля, а Шпак.. крутне, як венікам, хвастом, нібы засведчыць: «Пачуў жа», — і шлэпае як назаўтра трэба.* Янкоўскі.

*ТРЭСКАМ* ● **З ТР`ЭСКАМ** выгнаць, зняць з пасады, праваліцца і пад. *Акал. Разм.* Ганебна, з вялікім скандалам. *Сабраліся недавучкі дый задаёмся... У аднаго — дзевяць класаў і дзесяты калідор, у другога — тое самае, у трэцяга — і гэтага няма, чацвёртага з інстытута выперлі з трэскам за паводзіны...* Масарэнка. *Што значыць з трэскам зняты работнік? Яму не адказваюць на прывітанні, на яго не глядзяць, нават размаўляючы з ім...* Карпаў. *Прызнацца, у глыбіні душы я сам недзе пабойваўся: а што як наша задума з трэскам праваліцца?* Прыгодзіч.

*ТРЭСНЕ* ● **<ХОЦЬ> ЗАПАЛІ НЕ ТРЭСНЕ** *чаго.* Гл. запалі.

*ТРЭСНІ* ● **ХОЦЬ <ТЫ> ТРЭСНІ.** Гл. лопні.

*ТРЭСЦІ* ● **ТР`ЭСЦІ КІШ`ЭНЬ (-Ю, ПАНЧ`ОХУ).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выдаткоўваць грошы на што-н. *[Аўдоцця:] Э, кажа, сват, ты мне дзесяць рублёў скруціў. Трасі, кажа, кішэнь, бо нічога не выйдзе.* Крапіва. **ПАТРЭСЦІ КІШЭНЬ (-Ю, ПАНЧОХУ).** *Усякі дзеля бяседы кішэню патрос.* Дунін-Марцінкевіч. *Ты, Іван, вазьміся за Нону... Дзейка яна і праўда ласістая... Хай Вавіла патрасе панчоху...* Кудравец. *Неяк маці прыслала ліст. Няма чым падаткі плаціць... Патрос я кішэню, адаслаў ім апошнія грошы.* Леванocc.

**ТРЭСЦІ ПАВЕТРА.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Напышліва, гучна гаварыць што-н., не выклікаючы спачування ў слухачоў. *Ці варта сёння ўшчуваць, лямантаваць, паветра трэсці, падтрымкі за мяжой шукаць, пустыя размовы весці?* «Наша сл.» *Шмат хто б'е сябе ў грудзі, запэўніваючы ў добрых намерах. Шмат*

*такіх, хто трасе паветра ашаламляльнымі прамовамі.* «Нар. воля».

**ТР`ЭСЦІ ТР`АНТАМІ (РЫЗЗ`ЁМ).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Будучы бедным, хадзіць у падранай вопратцы. **Сін**.: свяціць голым задам. *Альбо, скажам, Пэйсах Фарбэраў — круціць з сям'ёй лазу год круглы, самі на тую гужбу парабіліся, а трантамі трасуць, дзеці ходзяць у каросце.* Лынькоў. *—Можа, дастаць [касцюм]?.. —А і праўда, сын, — падтрымаў Марфу Зазыба, — навошта гэтымі трантамі ўжо трэсці? Панасій недзе і дос[ыць]!* Чыгрынаў. *Бацькі рыззём трэслі, а вам цяпер няма чаго бедніцца.* Янкоўскі.

*ТРЭЦІХ* ● **ДА ТРЭЦІХ ПЕЎНЯЎ.** Гл. пеўняў.

**З ТРЭЦІХ ВУСНАЎ.** Гл. вуснаў.

**З ТРЭЦІХ РУК.** Гл. рук.

*ТРЭЦІЯ* ● **ПРАЗ ТРЭЦІЯ РУКІ.** Гл. рукі.

*ТРЭШЧЫНУ* ● **ДАЦЬ ТРЭШЧЫНУ.** Гл. даць.

*ТУГА* ● **СУСВ`ЕТНАЯ ТУГ`А.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Крайні песімізм, расчараванне ў жыцці. *Мною валодала не «сусветная туга», а проста жаданне ўмяшацца ў жыццё і сёе-тое ў ім паправіць.* Крапіва. *Брала сусветная туга, востры, цягучы боль спапяляў душу.* Блакіт. *Пад уражаннем прачытанага ён [К. Крапіва] яшчэ ў Койданаўскім гарадскім вучылішчы спрабаваў пісаць сам. Гэта былі вершы з налётам «сусветнай тугі».* Шкраба.

*ТУГАВАТЫ* ● **ТУГАВ`АТЫ (-АЯ, -АЕ, -ЫЯ) НА В`УХА.** *Вык. ці азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Глухаваты, трохі глухі. **Сін**.: тугі на вуха. *[Іван Іванавіч] узняўся, прыслухаўся — крыху тугаваты быў на вуха.* Лынькоў. *Немаведама як гэта з печы пачуў дзед — ён жа быў тугаваты на вуха.* Сабаленка. *Тугаватая на вуха бабка Кацярына вядзе размову з перакладчыкам каменданта.* «ЛіМ».

*ТУГАЯ* ● **ТУГАЯ КІШЭНЬ** *у каго.* Гл. кішэнь.

*ТУГІ* ● **КАШАЛЁК ТУГІ.** Гл. кашалёк.

**ТУГ`І (-АЯ, -ОЕ, -ІЯ) НА В`УХА.** Вык. ці азн. Разм. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. З дрэнным слыхам, глухі. **Сін**.: тугаваты на вуха. *Не пачуў [Песенька], бо тугі на вуха, як Андрэй Вайтовіч увайшоў.* Русецкі. *Перакладчык быў даўгалыгі і, калі гаварыў з прысадзістым шэфам, тугім на вуха, згінаўся, як той пытальнік.* Сіняўскі.

*ТУДЫ* ● **<І> ТУД`Ы І СЮД`Ы; <І> СЮД`Ы І ТУД`Ы** *Акал. Разм.* У розныя бакі; у розных кірунках (хадзіць, снаваць, кідацца і пад.). **Сін**.: з кута ў кут; сюд-туд (у 1 знач.); сюды-туды (у 1 знач.); то туды

то сюды; то ўзад то ўперад; узад і ўперад. *Чалавек, небарак, і туды і сюды кідаўся, біўся як рыба аб лёд, а нічога не памагае.* Чорны. *Я і туды і сюды — няма ракіты.* Якімовіч. *Як змеркне, як ноч дзень зваюе і зорак паявіцца знак, па нівах, па сёлах шнуруе туды і сюды ваўкалак.* Купала. *Па вуліцы туды і сюды снуюць машыны-легкавікі, рознакаляровыя аўтобусы, імчаць, пазвоньваючы, трамваі, бягуць людзі...* Сачанка. *Пан Крулеўскі кідаўся сюды і туды, угнуўшы галаву, штосьці крычаў, але ніхто яго не слухаў.* Колас.

**НЕ ТУДЫ ГНУЦЬ.** Гл. гнуць.

**НЕ ТУДЫ ЗАЕХАЦЬ.** Гл. заехаць.

**НЕ ТУДЫ ТОЕ.** Гл. тое.

**НЕ ТУДЫ ХАТА.** Гл. хата.

**НІ ТУД\`Ы <І> НІ СЮД\`Ы.** *Разм.* **1**. *Акал.* Сярэдне, ні добра і ні дрэнна (жыць, адчуваць сябе і пад.). **Сін**.: з сярэдзінкі на палавінку (у 2 знач.); ні тое ні сёе (у 3 знач.); сюды-туды (у 2 знач.); так сабе (у 2 знач.). *—А як жа пан Мышка? —От, таксама ні туды ні сюды, — адказаў бацька.* Гарэцкі.

**2**. *Акал.* Без руху, без змен, не прасоўваючыся наперад. **Сін**.: ні ўзад ні ўперад. *[Драчык] звязаўся з масай, як кажуць Хвёдар і Змітрок... А я? Ні туды ні сюды...* Бядуля. *—Ды ўжо ж, мы не дзеці малыя, каб баяцца некага. —А што ж вы сядзіце так, што ні туды ні сюды?..* Галавач. *Сын пра Любку, пра маці ў пісьмах — ні слова. Ды і я не распытваў ніколі. Так і ішло жыццё, ні туды ні сюды. Як змерла ўсё роўна.* Варановіч.

**3**. *без чаго. У безас. ужыв.* Немагчыма абысціся. *[Міцька:] Без тытуню, што без вады, ні туды і ні сюды.* Гурскі. *[Анатоль Іванавіч:] Без ЭВМ цяпер — ні туды і ні сюды.* Шамякін. *Самі ведаеце, без ачышчальных збудаванняў заводу ні туды ні сюды...* «Полымя».

**ТО ТУД\`Ы ТО СЮД\`Ы (ТО СЮД\`Ы ТО ТУД\`Ы).** *Акал. Разм.* У розныя бакі, у розных кірунках; то ў адзін, то ў другі бок (хадзіць, бегаць і пад.). **Сін**.: з кута ў кут; <і> туды і сюды; сюд-туд; сюды-туды (у 1 знач.); то ўзад то ўперад; узад і ўперад. *[Агата:] Ён жа, як рызнік, то туды то сюды блытаецца на парозе.* Купала. *Петрусёў Міхал бегаў то туды то сюды, нешта крычаў, але сам рук не пускаў у ход.* Сіняўскі. *Танцулька з Банадысём строяць кпінкі з гэтага старога. Штурхаюць яго, як тое соўгала, то сюды то туды. Дакуль жа гэта будзе?* Баранавых. *Тупаў [Мацей], хадзіў то сюды то туды, але таго, што шукаў, не знаходзіў, ніяк не мог знайсці.* Сачанка.

**ТУДЫ І ДАРОГА** *каму.* Гл. дарога.

**ТУД`Ы І ТУД`Ы.** *Акал. Разм.* У пэўнае месца. Ужыв. замест разгорнутай назвы канкрэтнага месца, дзе што-н. знаходзіцца, адбываецца і пад. *Аднаго разу падыходжу, так і так, кажу, Таня, пойдзеш туды і туды, зробіш тое і тое. Я ёй сур'ёзна, а яна смяецца.* Кузьмянкоў.

**ТУДЫ-СЮДЫ.** Гл. сюды.

**ТУД`Ы ЦІ СЮД`Ы.** *Акал. Разм.* Больш або менш. *Трэба нам з табой яшчэ раз перабраць наш спісачак, сёння я ўспомніла, што мы не запрасілі Хадасевічаў, ужо два чалавекі туды ці сюды, але трэба і іх запрасіць, бо пакрыўдзяцца.* Арабей.

*ТУЗАЦЬ* ● **Т`УЗАЦЬ Н`ЕРВЫ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Моцна хвалявацца, раздражняцца, злавацца. **Сін**.: рваць нервы (у 1 знач.); рваць сабе душу. *Гаспадар з мяне не выйшаў: кінуў, брат, зямлю сваю, — досыць з ёю нервы тузаў.* Крапіва.

*ТУЗІН* ● **ЧОРТАЎ ТУЗІН.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Жарт.* Трынаццаць (адуш. ці неадуш. прадметаў). *У першы дзень прыйшло адзінаццаць хлапчукоў і дзве дзяўчынкі, якраз чортаў тузін, на другі дзень — васемнаццаць.* С.Александровіч. *Гарнізон вялікі і страшэнна ўмацаваны. Адных дотаў чортаў тузін.* Кулакоўскі. *Дык от, толькі цяпер з чортавым тузінам [качак] дахаты не хочацца ісці. Як бы прыкмета нейкая дрэнная, ці што?* Янішчыц.

*ТУКАЦЬ* ● **НА ПЕНЬ БРАХАЦЬ ДЫ НА КАЛОДУ ТУКАЦЬ** *вучыць і пад.* Гл. брахаць.

*ТУМАН* ● **ПУСКАЦЬ ТУМАН У ВОЧЫ** *каму.* Гл. пускаць.

**РУЖ`ОВЫ ТУМ`АН**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Стан таталітарна-савецкага ўспрымання рэчаіснасці. *Можа, хай жыве [Барсук] у сваім ружовым тумане, дажывае век і носіць вазончыкі да падножжа помніка.* Быкаў. *Магчыма, Быкаў стаў тым пісьменнікам, які першы выйшаў з ружовага туману.* Дубянец. *У ружовым тумане мы былі і ёсць і будзем для з натоўпам паяднання ці для ўлад каранавання пры жыцця чарговым цудзе.* Тармола-Мірскі. *Гісторыя літаратуры 20–50 і пазнейшых гадоў яшчэ чакае ўдумлівага асэнсавання. У ёй быў не толькі ружовы туман, узведзеная ў закон фальсіфікацыя.* Казбярук. *Адразу знікае і «ружовы туман», і ўсе развагі пра нібыта «несамадастатковасць» беларускай літаратуры ў XX стагоддзі.* «Полымя». *Аўтар прапанаваў размежаванне літаратуры «ружовага туману» – ідэалізаванай савецкай – ад нацыянальнай беларускай літаратуры...* Рублеўская.

*Ружовы туман спакойнага жыцця прыемней за чорную праўду незагойных ранаў.* «ЛіМ». *Не веру! Няўжо моладзь тады была настолькі прагрэсіўна-«прасунутая», каб успрымаць акаляючую рэчаіснасць без «ружовага туману» (паводле В.Быкава) перад вачыма?* Грышкевіч.

**ТУМАН У ВОЧЫ.** Гл. пыл.

*ТУМАНЕ* ● **ЯК У ТУМ`АНЕ.** *Разм.* **1**. *Акал.* Не зусім выразна, цьмяна (помніць, бачыць і пад.). **Сін**.: як праз сон. *Як у тумане згадалася яму, які дзіўны выгляд быў у Ганны, калі вярнулася з лесу.* Мележ. *– Я званіў табе, Валерык, каб ты перадаў маме, што мяне паслалі ў камандзіроўку. Помніш? – Трохі помню. Як у тумане...* Леванові́ч.

**2**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, часцей у спалучэнні з дзеясл. *быць, жыць, хадзіць* і пад. У стане глыбокай задуменнасці. **Сін**.: як у сне. *У Бараўцах паэт жыў як у тумане, не бачачы, што ў яго наперадзе.* Лойка. *Некалькі дзён Кошаль хадзіў як у тумане...* Гігевіч. *І між тым Гарноська быў як у тумане, дрэнна разумеў, пра што гаворыць падпалкоўнік...* Блакіт.

*ТУМАНІЦЬ* ● **ТУМ`АНІЦЬ В`ОЧЫ** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Знарок уводзіць у зман. **Сін**.: абводзіць вакол пальца *каго*; абуваць у лапці *каго*; бакі забіваць *каму*; браць на арапа *каго*; браць на бога *каго*; браць на вудачку *каго*; браць на пушку *каго*; вадзіць за нос *каго*; вешаць лапшу <на вушы> *каму*; віляць хвастом (у 1 знач.); выводзіць у поле *каго*; гнуць дугі; гуляць у ката і мышкі; дурыць галаву *каму* (у 1 знач.); задурыць галаву *каму (у 3* знач.); замазваць вочы *каму*; замыльваць вочы *каму*; запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму*; корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму*; настаўляць акуляры *каму*; прадаць *каго* і грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму*; пускаць пыл у вочы *каму*; сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць галаву *каму. Шаптухі немаведама што раілі. Туманяць вочы, дый толькі.* Брыль. **ЗАТУМАНІЦЬ ВОЧЫ** *каму. Зак. [Шугаеў:] Што, так здорава вочы затуманіў Зоі Кірылаўне? [Страмілін:] Уяві сабе.* Крапіва.

**ТУМ`АНІЦЬ ГАЛАВ`У** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Уводзіць у зман, падманваць каго-н. **Сін**.: абводзіць вакол пальца *каго*; абуваць у лапці *каго*; бакі забіваць *каму*; браць на арапа *каго*; браць на бога *каго*; браць на вудачку *каго*; браць на пушку *каго*; вадзіць за нос *каго*; вешаць лапшу <на вушы> *каму*; віляць хвастом (у 1 знач.); ваводзіць у поле *каго*; гнуць дугі; гуляць у ката і мышку; дурыць галаву *каму* (у 1 знач.);

задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); замазваць вочы *каму*; замыльваць вочы *каму*; запраўляць арапа; кампасціраваць мазгі *каму*; корчыць дурня (у 1 знач.); круціць хвастом (у 1 знач.); муціць галаву *каму*; настаўляць акуляры *каму*; прадаць *каго і* грошы палічыць; пудрыць мазгі *каму*; пускаць пыл у вочы *каму*; сляпіць вочы *каму* (у 1 знач.); травіць баланду (у 2 знач.); туманіць вочы *каму.* **ЗАТУМАНІЦЬ ГАЛАВУ** *каму. Зак. —А мы тут усе сядзім і слухаем бясконцыя мерапрыемствы і захапляемся мудрасцю нашага кіраўніка. Як нам лёгка затуманіць галаву. —Іван яшчэ нешта хацеў сказаць, махнуў і сеў.* Гаўрылкін.

*ТУМАНУ* ● **НАПУСКАЦЬ ТУМАНУ.** Гл. напускаць.

**ПУСКАННЕ ТУМАНУ.** Гл. пусканне.

*ТУНЭЛЯ* ● **СВЯТЛО Ў КАНЦЫ ТУНЭЛЯ.** Гл. святло.

*ТУПІК* ● **ЗАГАНЯЦЬ У ТУПІК** *каго.* Гл. заганяць.

**ЗАГНАНАСЦЬ У ТУПІК.** Гл. загнанасць.

**ЗАХОДЗІЦЬ У ТУПІК.** Гл. заходзіць.

**СТАВІЦЬ У ТУПІК** *каго.* Гл. ставіць.

**СТАНАВІЦЦА Ў ТУПІК.** Гл. станавіцца.

**ТРАПЛЯЦЬ У ТУПІК.** Гл. трапляць.

*ТУРМА* ● **ТУРМ`А ПЛ`АЧА** *па кім. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. заслугоўвае турэмнага зняволення. *Ды яго [сваяка] не шкада — даўно па ім турма плача, шкада, што ён, Юрый Максімавіч Карчэўскі, чалавек з аўтарытэтам, трапіў у адну кампанію з аферыстам.* Радкевіч. *А былі і такія з дзетдомаўцаў, і нямала, хто папоўніў калоніі. З свайго дзетдома туды ён [Мар'ян] не спіхнуў нікога. Тут ён чысты душой, хоць і ўгаворвалі: не цацкайся, не няньчся, турма па іх даўно плача.* Казько. *За чалавека трэба змагацца: на рабоце, на вуліцы, дома. І не хіхікаць цішком — маўляў, турма па ім плача.* «Звязда».

*ТУРУСЫ* ● **ПАДПУСКАЦЬ ТУРУСЫ НА КАЛЁСАХ** *каму.* Гл. падпускаць.

**РАЗВОДЗІЦЬ ТУРУСЫ <НА КАЛЁСАХ>.** Гл. разводзіць.

*ТУРЭЦКІ* ● **ЯК СВЯТЫ <ТУРЭЦКІ>.** Гл. святы.

*ТУТ* ● **АДНА НАГА ТУТ, ДРУГАЯ ТАМ.** Гл. нага.

**ВОСЬ ТУТ І КУКУЙ!** Гл. кукуй.

**ВОСЬ ТУТ СЯДЗІЦЬ** *у каго, каму.* Гл. сядзіць.

**<І> ТАМ І ТУТ.** Гл. там.

**<І> ТУТ І ТАМ.** Гл. там.

**І ЎСЁ ТУТ.** Гл. усё

**НЕ ТУТ КАЗАНА.** Гл. казана.

**НЕ ТУТ ТОЕ БЫЛО.** Гл. тое.

**ТО ТАМ ТО ТУТ.** Гл. там.

**ТО ТУТ ТО ТАМ.** Гл. там.

**Т`УТ `ЁСЦЬ (Б`ЫЎ) Т`УТ НЯМ`А.** *Вык. ці азн. Разм. Часцей адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі рухавы, хуткі. *Марынка ж была росту невялічкага, але быстрая, тут ёсць тут няма.* Кудравец. *Погляд блакітных вачэй строгі, пастава гордая, а рухавы — не ўпільнуеш: тут ёсць тут няма.* Праскураў. *Святло, што вырвалася з пакоя, на момант асвяціла Валю, якая ўваходзіла туды. «Ну і дзяўчына! Тут ёсць тут няма», — падумаў Голераў.* Шашкоў. *Маленькі яшчэ хлопчык Петручок... Як жучок і поўзае: у кожную шчыліну прашчэміцца. Тут быў тут няма.* Чарнышэвіч.

**Т`УТ ЯК Т`УТ.** *У знач. дзеясл. вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Адразу, раптоўна з'явіўся, аказаўся. **Сін**.: як тут <і> быў. *Да чаго ж дапытлівай малая слаўная дачка расце ў мяне. Раніцай прыёмнік уключаю, — тут як тут яна. Не праміне.* Панчанка. *Вось ідзе чырвонаармеец. Барадаты ўжо тут як тут. Рожкі наперад і не дае праходу ні направа, ні налева.* Лынькоў. *Толькі дзед вось так падумаў, а лісіца тут як тут. Шмарганула ўбок без шуму. У гусіны ўлезла гурт.* Астрэйка.

**ЯК ТУТ <І> БЫЎ.** Гл быў.

*ТУЮ* ● **КУРЫНУЮ СІСЮ І ТУЮ НЕ ЎСЮ.** Гл. сісю.

**НОГІ МЫЦЬ** *каму, чые* **І ТУЮ ВАДУ ПІЦЬ.** Гл. мыць.

**НЕ НА ТУЮ НАРВАЎСЯ.** Гл. нарваўся.

*ТЫ* ● **Б`АЧЫШ (Б`АЧ) ТЫ.** *Выкл. Разм.* Выказванне здзіўлення ад нечаканасці чаго-н. **Сін**.: глядзі ты! — *Што ты тут будзеш, Тварыцкі, рабіць?.. — Працаваць буду. — Бачыш, ты... От і добра.* Чорны. — *Бач ты, як усё перамянілася за гэтыя гады, — ціха, як для сябе, сказаў Мірон.* Кудравец.

**ДАЙ <ТЫ> ВЕРЫ.** Гл. дай.

**ДАЙ <ТЫ> РАДЫ.** Гл. дай.

**ДАЙ ТЫ СВЕТ** <*каму*>. Гл. дай.

**ДЗ`Е (КУД`Ы) <Т`Ы> ДЗ`ЕНЕШСЯ.** *У абаг.-асаб. знач. Разм.* Іншага выхаду няма; даводзіцца пагадзіцца, прымірыцца з чым-н. **Сін**.: не дзе дзенешся; нідзе не дзенешся; нічога не зробіш; нічога не папішаш; нічога не парадзіш; што зробіш. «*Здаецца, пачынае адходзіць, — падумаў Лявон пра Вавілу. — Дзе ты дзенешся, адыдзеш. Разам жыць, разам працаваць*». Кудравец. *Пшаніца як гай шуміць, а ў вайну і мы набедаваліся. А куды дзенешся? Трэба было фронт карміць і з тылам дзяліцца.* Грахоўскі. *Усіх, бачыш паклікалі, хто працаваў на чыгунцы да вайны. А куды дзенешся? Паспрабуй не пайдзі!* Карпюк.

**ДЗ`Е <Т`Ы> Б`АЧЫЎ; ДЗ`Е <В`Ы> Б`АЧЫЛІ.** *Выкл. Разм.* Выказванне нязгоды з чым-н., немагчымасці чаго-н. — *Мне здаецца, што сёння гарматы як бы аддаліліся... — Дзе ты бачыў, аддаліліся, — зусім блізка грукацяць.* Колас. — *Можа, ён жывы яшчэ?.. — Дзе вы бачылі, з такой вышыні кінуўся, ды каб жывы...* Галавач. — *Ці не ў млын гэта рыхтуецеся? — Ай, дзе бачылі! Гэта ж вось трэба аддаваць. Два мяхі ўжо раней завёз, а гэта яшчэ. Дваццаць жа пудоў усяго налажылі.* Крапіва.

**НА Т`Ы** <u>*быць.*</u> *Акал. Функц. не зам.* **1**. *з кім.* У сяброўскіх, блізкіх адносінах. **Сін**.: на блізкую нагу; на кароткай назе. *Мы з ім былі на ты, аднак ён быў на дваццаць з гакам старэйшы.* Брыль. *І сам бачу, што людзі не звычайныя... Абодва з Вайцяхоўскім на ты.* Карпюк. —*Строгі, мусіць? —І строгі, і не... — адказаў Генка. — Ён, калі не на ўроку, з намі на ты... Свой...* Ярашэвіч.

**2**. *з чым.* З вельмі добрым разуменнем чаго-н. *Калі пачнём манціраваць асноўныя вузлы і пускаць рэактар, трэба, каб з кожным яго элементам быў на ты.* Гроднеў. *У мяне ёсць нямала знаёмых інжынераў, якія плённа, удала працуюць на заводах, на ты з самай складанай тэхнікай.* «ЛіМ».

**ХОЦЬ ТЫ ГАЛАВОЙ НАЛАЖЫ.** Гл. налажы.

**ХОЦЬ ТЫ КРЫЖАМ ЛЯЖ.** Гл. ляж.

**ХОЦЬ ТЫ МАКАМ САДЗІСЯ.** Гл. садзіся.

**ХОЦЬ ТЫ Ў САБАКІ ВАЧЭЙ ПАЗЫЧ** *каму.* Гл. пазыч.

**ХОЦЬ ТЫ ШТО.** Гл. што.

**ЦЬФУ ТЫ НЯЧЫСТАЯ СІЛА.** Гл. цьфу.

**ЦЬФУ ТЫ <ЧОРТ>!** Гл. цьфу.

**ШТО ТЫ!** Гл. што.

**ШТ`О Т`Ы К`АЖАШ!; ШТ`О В`Ы К`АЖАЦЕ!** *Выкл. Разм.* Воклiч здзіўлення і недаверу ў сувязі з пачутым ад суразмоўніка. Няўжо гэта так? —*Адзін раз, тады ж во, як прынясла твой ліст, раптам ускіпела нечага і неўтрапёнай вылецела з майго пакоя. І болей тыдня не чуваць нічога... — Што ты кажаш...* Гартны. *[Алена:] Таню гестапаўцы схапілі. [Скробат:] Што вы кажаце!* Крапіва.

*ТЫДЗЕНЬ* ● **БЕЗ Г`ОДУ (-А) Т`ЫДЗЕНЬ.** *Разм.* **1**. *дзе. Акал.* *Зусім* нядаўна, на працягу кароткага тэрміну (быць, працаваць, жыць і пад. дзе-н.). *Ну які з мяне разведчык? Каб Стась, дык той змог бы пранюхаць! А я што? Без году тыдзень, як я сюды пераведзены.* Брыль. *І навошта было гэтаму хлапчуку, што без года тыдзень сядзіць у сакратарскім крэсле, раскрываць душу, выкладваць усё, што думаў?* Грахоўскі.

**2**. У *знач. прэдык. азн. Часта іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач.

чалавека па прафесіі, пасадзе, становішчу. З невялікім стажам, з вельмі малым вопытам работы. *Паслухай, Аляксандр, ты ж усяго без года тыдзень старшыня калгаса, а ўжо захацеў, утыркнуўшы ў зямлю аглоблю, «зжаць» параконны воз?!* «ЛіМ». «*Тая самая Ігнасёва Люба. Аднак яна пакідае лепшае ўражанне, чымся ўсе гэтыя без году тыдзень правадыры шматмільённага сялянства», — падумаў Арон.* Мурашка.

*ТЫКАЦЬ* ● **ТЫКАЦЬ <СВОЙ> НОС** *куды, у што.* Гл. тыкаць.

**ТЫКАЦЬ (ТЫЦКАЦЬ) ПАЛЬЦАМ (-АМІ)** *на каго, на што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Адкрыта, публічна асуджаць, ганіць каго-, што-н. **Сін**.: калоць вочы *каму* (у 1 знач.); калоць у вочы *каму* (у 1 знач.); паказваць пальцам *на каго, на што*; пароць вочы *каму*; пароць пальцам; пароць у вочы *каму*. *Пасля к сабе яе стаў клікаць, яна ішла за ім, як цень, аж пачала ўся вёска тыкаць на дзеўку пальцамі штодзень.* Купала. *[Лявон:] Хлопец ён што трэба, зарабляе нямала. Пальцам на яго не тыкаюць.* Макаёнак. *Што гэта будзе вашай ласцы за інтэрас, калі на ўсю акругу пойдзе пагаласка, што ваш сын, скажам, ці дачка гадуецца ў нейкага Ксавэра Блецькі? Нашто ж, каб на вашу ласку пальцамі тыцкалі.* Чорны. *Далёка-далёка разышлася аб табе слава, у кожнай хаце зараз на цябе са смехам пальцам тыцкаць будуць.* Шашкоў. **ТКНУЦЬ ПАЛЬЦАМ (-АМІ)** *на каго, на што. Зак.* А *нашто халат вясною? Ну, нашто, каб я здароў? Мей бы ты халацік новы, дык які б ты быў жабрак? Людзі пальцам ткнуць гатовы: жабраку абнова — брак!* Колас.

**ТЫКАЦЬ У ЗУБЫ** *каму што.* Гл. тыцкаць.

*ТЫКНУЦЬ* ● **ТЫКНУЦЬ У ЗУБЫ** *каму што. Зак. да* **ТЫКАЦЬ У ЗУБЫ** *каму што.*

*ТЫЛЫЛЫ* ● **БІЦЬ ТЫЛЫЛЫ.** Гл. біць.

*ТЫМ* ● **А МІЖ ТЫМ.** Гл. між.

**ЗНАКАМ ТЫМ.** Гл. знакам.

**МІЖ ТЫМ.** Гл. між.

**НА ТЫМ СВЕЦЕ.** Гл. свеце.

**НА ТЫМ СВЕЦЕ ВУГОЛЬЧЫКАМІ.** Гл. свеце.

**РАЗАМ З ТЫМ.** Гл. разам.

**САДЗІЦЦА НА ТЫМ ЖА МЕСЦЫ.** Гл. садзіцца.

**Т`ЫМ Б`ОЛЬШ.** *У знач. узмацн. часціцы. Функц. не зам.* Ужыв., каб падкрэсліць важнасць сказанага ў наступнай фразе. **Сін**.: больш таго. *Рахункаводу абрыдла сядзець у канторы, тым больш што на вуліцы выдатны вясновы вечар...* Хадкевіч. — *Арбіта, перыгей, вугал асвятлення нябесных цел нашым дзённым*

*сваціламі... — Ты не можаш прасцей, без гэтых выкрунтасаў?.. Я іх не ўспрымаю, тым больш калі вакол такое хараство...* Ракітны.

**ТЫМ ЖАМІРАМ МАЗАНЫ.** Гл. мазаны.

**Т`ЫМ НЕ М`ЕНШ.** *У знач. злучніка. Функц. не зам.* Нягледзячы на гэта; аднак. *Часта цяжэй за ўсё драматургу прыходзіцца тады, калі п'еса ўжо напісана. Тым не менш жанр гэты мае асаблівыя прывабныя ўласцівасці і моцна трымае пісьменніка ў палоне.* Крапіва. *Праўда хадзілі чуткі, што месяц назад Брытвін здорава праштрафіўся на заданні, яго знялі з роты, хацелі нават судзіць, ды перавялі ў іхні атрад радавым. І тым не менш тон і ўвесь яго выгляд сведчылі, што радавым ён сябе не лічыў.* Быкаў.

*ТЫРАЖ* ● **ВЫХОДЗІЦЬ У ТЫРАЖ.** Гл. выходзіць.

**СПІСВАЦЬ У ТЫРАЖ** *каго.* Гл. спісваць.

*ТЫСЯЧА* ● **ТЫСЯЧА І АДНА НОЧ.** *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Функц. не зам.* Штосьці дзіўнае, незвычайнае, казачнае. **Сін.**: восьмы цуд свету. *Размова не закрыла пытанне. Інспектар перашле маскоўскае паведамленне ў інспекцыю Ленінскага раёна, дзе я жыву. І ўсё пачнецца спачатку? Тысяча і адна ноч. Дробязь, а нервуе...* Шамякін. *Яна [гід] не стараецца здзівіць тысяччу і адной ноччу: «Венецыя-Венецыя, ну й што? Знайшлі чаму здзіўляцца».* Астравец. *Алёша, міленькі, я вось чаго званю так позна... Тысяча і адна ноч... пакуль даведалася твой тэлефон...* Місько. *[Марфа:] Прыйшоў ліст з Лондана! Цябе запрашаюць чытаць лекцыі. Ты так марыў пра гэта!.. Другога шанцу не будзе. Яны дазволілі ўзяць з сабой жонку. [Казімір:] Гэта твая тысяча і адна ноч?* Куртаніч.

*ТЫЦКАЦЬ* ● **Т`ЫЦКАЦЬ Н`ОСАМ** *каго ў што.* Незак. Прасг. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Указваць з мэтай павучання, звычайна ў рэзкай форме. **ТЫЦНУЦЬ НОСАМ** *каго ў што. Зак. — Вы бачыце, каму належаць затокі па плану і хто імі карыстаецца?.. — Прывесці яго [пана Скірмунта] сюды, тыцнуць носам у план, а потым утапіць прахвоста ў гэтых затоках!* Колас. *Зяневіч не паверыў, прыйшлося тыцнуць яго носам у кніжку.* Лужанін. *Не, ён яшчэ пагутарыць з гэтай дзяўчынай. Ён тыцне яе носам у брыдоты старога свету, якія ёй здаюцца раскошай.* Асіпенка.

**Т`ЫЦКАЦЬ ПАД Н`ОС** *каму што. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даваць, падаваць, паказваць што-н. непачціва, абы-як. **Сін.**: тыцкаць у зубы *каму што*; тыцкаць у нос *каму* (у 2 знач.). *Нейкі дзяцюк тыцкаў Апанасу пад нос паношаныя чаравікі.* Новікаў. **ТЫЦНУЦЬ ПАД НОС** *каму што. Зак. Трымаем трох дойных кароў, а на снеданне маці тыцне табе пад нос*

*вараную бульбу ў шалупайках ды міску кіслага малака з адгону...* Машара. — *Адабраў у Жагулы [даведку]. — Як гэта адабраў? — Ды вельмі проста. Прынёс — тыц мне пад нос, а з рук не выпускае. Кажу: «Дай сюды...»* Крапіва.

**ТЫЦКАЦЬ ПАЛЬЦАМ** *на каго, на што.* Гл. тыкаць.

**Т`ЫЦКАЦЬ (Т`ЫКАЦЬ) <СВ`ОЙ> Н`ОС** *куды, у што. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Умешвацца ў што-н. **Сін**.: соваць <свой> нос *куды, у што*; ткнуць <свой> нос *куды* (у 1 знач.). *Старая! Кажу — не тыцкай свайго носа, дзе не трэба! Не твой інтэрас.* Баранавых. *Калі ты нічога не цяміш аб нашым будучым ды яшчэ тыцкаеш нос куды табе не трэба — гэта ўжо, скажу табе прама, не сціпла з твайго боку, Надзя.* Гроднеў. *Гэта больш за ўсё крыўдзіць Майбараду. Я лезу туды, куды мне не асабліва і трэба тыкаць носа.* Скрыган.

**Т`ЫЦКАЦЬ (Т`ЫКАЦЬ) У З`УБЫ** *каму што. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даваць, падаваць, паказваць што-н. непачціва, абы-як. **Сін**.: тыцкаць пад нос *каму што*; тыцкаць у нос *каму* (у 2 знач.). — *Скаціна! — засіпеў ён [Махорка], не сцярпеўшы і забегшы Боганчыку наперад. — Ён паперу ў зубы тыкае... Крыку нарабіў на ўвесь лес, каб усе чулі* Пташнікаў. **ТЫЦНУЦЬ (ТЫКНУЦЬ) У ЗУБЫ** *каму што. Зак. [Рунец:] Чаго ім трэба? [Барута:] Дурняў шукаюць. Ідзі на завод працаваць. А я ім пашпарт тыц у зубы.* Крапіва.

**Т`ЫЦКАЦЬ У В`ОЧЫ** *каму <кім, чым>. Незак. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Непачціва папікаць, папракаць каго-н., назойліва напамінаючы аб чым-н. **Сін**.: тыцкаць у нос *каму* (у 1 знач.). *Што ты тыцкаеш у вочы гэтым Кляпнёвым!* Шамякін. *Каб не тыцкалі некаторыя ў вочы, што ён — наводшыбе, Ілья Іванавіч стаў грамадскім інспектарам гандлю.* Даніленка. **ТЫЦНУЦЬ У ВОЧЫ** *каму <кім, чым>. Зак.*

**Т`ЫЦКАЦЬ У Н`ОС** *каму. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. *<кім, чым>.* Непачціва папікаць, папракаць каго-н., назойліва напамінаючы аб чым-н. **Сін**.: тыцкаць у вочы *каму <кім, чым>. І мне, машыністу, якога ўсе на чыгунцы ведаюць і паважаюць, каб тыцкалі ў нос: жонка твая спекулянтка...* Савіцкі. *Дзецям, нават у школе, абы пасварыліся ці што не так сказалі, дык кожны, нават самы апошні вучань, тыцкае ў нос: — А твой бацька аднаасобнік! А твой бацька падкулачнік!* Васілевіч. **ТЫЦНУЦЬ У НОС** *каму <кім, чым>. Зак. [Лютынскі:] Мы заўсёды так: скажа чалавек слова шчырае, зараз яму якім-небудзь жупелам тыц у нос — уласнік, гуманіст, гнілы*

*ліберал.* Крапіва.

**2**. *што, чым.* Даваць, падаваць, паказваць што-н. непачціва, абы-як. **Сін**.: тыцкаць пад нос *каму што*; тыцкаць у зубы *каму што. На курсах гэтых ён [Качанок] вучыўся заўсёды на «выдатна», прывозіў пахвальныя грамапсы і тыцкаў імі ў нос настаўнікам сваёй школы.* Шамякін. **ТЫЦНУЦЬ У НОС** *каму што, чым. Зак. Вынес пастанову аб высяленні якога-небудзь былога панка, што мае дзесяцін шэсцьдзесят-восемдзесят, а ён табе праз два тыдні тыц у нос ахоўную грамату: не чапай яго, ён культурны гаспадар.* Крапіва.

*ТЫЦНУЦЬ* ● **ТЫЦНУЦЬ НОСАМ** *каго ў што. Зак. да* **ТЫЦКАЦЬ НОСАМ** *каго ў што.*

**ТЫЦНУЦЬ ПАД НОС** *каму што. Зак. да* **ТЫЦКАЦЬ ПАД НОС** *каму што.*

**ТЫЦНУЦЬ У ВОЧЫ** *каму* <*кім, чым*>. *Зак. да* **ТЫЦКАЦЬ У ВОЧЫ** *каму* <*кім, чым*>.

**ТЫЦНУЦЬ У ЗУБЫ** *каму што. Зак. да* **ТЫЦКАЦЬ У ЗУБЫ** *каму што.*

**ТЫЦНУЦЬ У НОС** *каму. Зак. да* **ТЫЦКАЦЬ У НОС** *каму.*

*ТЫЯ* ● **ТЫЯ РАЗЫ.** Гл. разы.

*ТЭКСТАМ* ● **АДКР`ЫТЫМ Т`ЭКСТАМ.** *Акал. Функц. не зам.* Проста, шчыра, без хітрыкаў, не тоячыся (гаварыць, сказаць і пад.). **Сін**.: ва ўпор (у 2 знач.); вочы ў вочы (у 2 знач.); у адкрытую; у вочы *казаць*; у лоб (у 2 знач.); у твар *гаварыць.* **Ант**.: за вочы (у 1 знач.). *Сталі намякаць [Андрэю]: не ўлягай — надарвешся. Не памагала. Тады адкрытым тэкстам: не думай, што ты тут самы разумны, не строй з сябе новага Гіляроўскага...* Блакіт. *І, як «SOS» аб набалелым, не манкіруючы зместам, я пішу аб свеце белым так, як ёсць — адкрытым тэкстам.* Л.Галубовіч.

*ТЭЛЕФОН* ● **АБРЫВАЦЬ ТЭЛЕФОН.** Гл. абрываць.

**ДУША ВОН** <*з каго*> **І КІШКІ НА ТЭЛЕФОН.** Гл. душа.

*ТЭЛЕФОНЕ* ● **ВІСЕЦЬ НА ТЭЛЕФОНЕ.** Гл. вісець.

**СЯДЗЕЦЬ НА ТЭЛЕФОНЕ.** Гл. сядзець.

*ТЭМПЕ* ● **У Т`ЭМПЕ.** *Акал. Функц. не зам.* Вельмі хутка, энергічна (рабіць што-н.). *Так што працуем законна, у тэмпе.* Карпаў. *[Лейтэнант:] Толькі ў тэмпе, хлопцы: каб не замерзлі? Згода? Пачалі.* Капусцін.

*ТЭТ* ● **ТЭТ-А-ТЭТ**. *Акал. Функц. не зам.* Без сведак, без пабочных асоб, удвух з кім-н. (гаварыць, пагаварыць, спытаць і пад.). **Сін.**: адзін на адзін (у 1 знач.); вока на вока (у 1 знач.); з вока на вока; на чатыры вокі; сам-насам (у 1 знач.). *Зінаіда Бандарына.. спытала ў мяне тэт-*

*а-тэт, нікога ў пакоі больш не было: «А вы што-небудзь з Уладзіміра Дубоўкі чыталі?»* Гілевіч. *Уражанне было такое, быццам аўтар загаварыў з кожным тэт-а-тэт непасрэдна, без прысутнасці кагонебудзь трэцяга.* Гніламёдаў. *Да самай жаніцьбы не пакідала боязь заставацца з імі [жанчынамі] тэт-а-тэт...* Л.Галубовіч. *Што ж, пагаворым, як кажуць, тэт-а-тэт... Пакіньце нас у двух з Бакульчыкам.* Блакіт. *Праз колькі хвілін я арганізаваў сустрэчу tete-a-tete з В.Быкавым. Абмеркаваў з ім сітуацыю.* Дубянецкі.

**У**

*УБАВІЦЬ* ● **НІ ЎБ`АВІЦЬ НІ ПРЫБ`АВІЦЬ.** *Акал. Разм.* Абсалютна дакладна. **Сін**.: ні даць ні ўзяць (у 2 знач.); як у аптэцы (у 1 знач.). *Адзін з ваўкоў амерыканскай прэсы.. заяўляе: «Журналістыка корміцца несумненна забойствамі. Забойства — вось што робіць першыя старонкі газет, забойства, а не нараджэнне». Тут, як кажуць, ні ўбавіць ні прыбавіць.* Вярцінскі. *— Скажу, як ёсць: тут ні ўбавіць ні прыбавіць — любата. Ну, але ж і клопатна, мусіць? — Клопату больш, чым трэба, — прызнаўся Ціхан.* Воранаў.

*УБАКУ* ● **ЗАСТАВАЦЦА ЎБАКУ.** Гл. заставацца.

**СТАЯЦЬ УБАКУ.** Гл. стаяць.

*УБАЧЫЦЬ* ● **УБ`АЧЫЦЬ (ПАБ`АЧЫЦЬ) СВ`ЕТ. 1**. *з кім, за кім. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зажыць інакш, значна лепш. *[Лукша:] Не слухай яго, праклятага, трымайся Мішы! З ім ты свет убачыш, вольнай птахай пажывеш!* Макаёнак. *[Ганна] убачыла свет толькі за Рыгорам. Ён стаў яе збавіцелем, яе першай і вечнай радасцю.* Карпаў.

**2**. *Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Быць апублікаваным, выдадзеным. Пра кнігу, брашуру і пад. **Сін**.: выходзіць у свет. *У перадваенныя гады Кандрат Крапіва прымаў удзел у рэдагаванні вялікага руска-беларускага слоўніка, які з-за вайны не ўбачыў свету.* «Звязда». *І калі газеце не выпадаў лёс убачыць свет, наборшчык пераказваў сваім сябрам змест заметак, якія ён набіраў для «крамольнай» газеты.* Жычка. *Дзённік гэты.. меўся быць надрукаваным у тым самым «Нёмане» гадоў пятнаццаць таму назад, але стараннямі зацікаўленых асоб свету тады не пабачыў.* Брыль. *У 1914 годзе, працуючы на Лене вадалівам на баржы, А.Гарун падрыхтаваў паэтычны зборнік «Матчын дар», які пабачыў свет толькі ў 1918 годзе.* «ЛіМ».

**УБАЧЫЦЬ СЯБЕ ВАЧАМІ** *каго. Зак. да* **БАЧЫЦЬ СЯБЕ ВАЧАМІ** *каго.*

**УБАЧЫЦЬ ШКЛЯНОГА БОГА.** *Зак. да* **БАЧЫЦЬ ШКЛЯНОГА**

**БОГА.**

*УБІВАЦЦА* ● **УБІВ`АЦЦА Ў ГАЛАВ`У** *каму, чыю. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. **1**. Моцна засвойвацца, запамінацца кім-н. *Новае ёмкае прозвішча само сабой з таго дня, як паткнуўся ў горад, убілася ў галаву.* Галубок. *Думала [Ганна] марудна і была заядлая, упартая, так што, калі што ўбівалася ў галаву яе, выходзіла адтуль не хутка.* Мележ. **УБІЦЦА Ў ГАЛАВУ** *каму, чыю. Зак. Убіліся ў галаву словы: «Ой, арол, мой арол, ты лятаеш высока...»* Гіль.

**2**. Настойліва насаджвацца кім-н. *[Прыгонным артыстам] здавалася, што знаходзяцца ў нейкім дзівосным і страшным сне. У страшным дзеля таго, што ўсё гэта ўбівалася ім у галовы бізунамі.* Бядуля. *Вера, цар, бацькаўшчына — гэтыя тры словы ўбіваліся ў галовы ім з самага малку, гэтымі словамі іх вялі сюды на бойню...* Галавач. **УБІЦЦА Ў ГАЛАВУ** *каму, чыю. Зак.*

*УБІВАЦЬ* ● **УБІВАЦЬ АСІНАВЫ КОЛ У МАГІЛУ** *каго, чаго.* Гл. забіваць.

**УБІВ`АЦЬ (ЗАГАН`ЯЦЬ) КЛ`ІН** *паміж кім, паміж чым. Незак. Функц. не зам. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Раз'ядноўваючы каго-, што-н., выклікаць варожасць аднаго да другога. *Ды як паны свой глузд ні мучаць, як ні ўбіваюць яны клін, а люд глядзіць на шлях адзін, на той, што з Руссю яго лучыць.* Колас. **УБІЦЬ (ЗАГНАЦЬ) КЛІН** *паміж кім, паміж чым. Зак. А ведаеш, рафік, чым душманы стараюцца ўбіць клін паміж намі, простымі афганцамі, і вамі, рускімі? Тым, што ў вас няма веры.* «Звязда». *У Вашынгтоне клеплюць розныя ідэі і дактрыны, сэнс якіх — супрацьпаставіць адну другой «дзве Еўропы», загнаць паміж імі клін.* «Полымя».

**УБІВ`АЦЬ САБ`Е Ў ГАЛАВ`У** *што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Умацоўвацца ў якой-н. думцы, намеры, цвёрда трымацца чаго-н. **Сін**.: набіраць сабе ў галаву <*што*>. **УБІЦЬ САБЕ Ў ГАЛАВУ** *што. Зак. Іван Васільевіч і пасля дзённіка не адчуў тае бяды, якую, напэўна, убіла сабе ў галаву спалоханая маці.* Шамякін. *Яшчэ зімою ў восьмым класе Ірачка ўбіла сабе ў галаву, што яна будзе доктарам, для пачатку хаця б медсястрою.* Гігевіч. *Салвэсіха яшчэ да гэтага ўбіла сабе ў галаву, што як не стане млына, з якім столькі звязана ў яе жыцці, то і далей, лічы, ужо не будзе ніякага сэнсу жыць.* Рыбак.

**УБІВ`АЦЬ У ГАЛАВ`У** *каму што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Частым паўтарэннем прымушаць каго-н. засвоіць, запомніць што-н. **Сін**.: укладваць у галаву *каму што* (у 3

знач.). **УБІЦЬ У ГАЛАВУ** *каму што. Зак. Бог не любіць блюзнерства, гэта мне яшчэ ў царкоўна-прыходскай школе ўбілі ў галаву.* Хадкевіч. — *У мяне маюцца свае погляды на жыццё. Ці, можа, мне забаронена мець іх? — Такія — забаронена!.. Я не дазволю! — І ўваб'еш мне ў галаву свае? — Калі патрабуецца, уваб'ю.* Мурашка.

**2**. Настойліва ўнушаць што-н., пераконваць у чым-н. **Сін**.: дзяўбці ў галаву *каму, чыю*; капаць на мазгі *каму*; уводзіць у вушы *каму што* (у 2 знач.); укладваць у галаву *каму што* (у 2 знач.). *Прашу прадумаць і паведаміць мне вашы прапановы адносна дэзінфармацыі працїўніка. Усімі сродкамі трэба ўбіваць у галовы немцам, што мы намерваемся стаяць.* Мележ. **УБІЦЬ У ГАЛАВУ** *каму што. Зак. — Але аднаго толькі ведання мала, трэба закладваць свае саюзы і арганізацыі... — Ой, трудна зрабіць гэта з нашым народам! — кажа ён [Аксён] і робіць увагі, што народ у розныя бакі глядзіць, а іншаму дурню гэтага ніяк і ў галаву не ўваб'еш.* Колас.

*УБІРАЦЦА* ● **УБІР`АЦЦА (БР`АЦЦА) У С`ІЛУ**. *Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Станавіцца больш сталым, дарослым, моцным. **Сін**.: збірацца з сіламі (у 3 знач.); набірацца сілы (у 3 знач.); убірацца ў пер'е (у 3 знач.). *Толькі ў сілу сталі брацца, ажно і не агледзеліся, як скончылася іх сяброўства: Міхалку здалі ў салдаты, Андрэй — ільготнік — астаўся дома гаспадарыць.* Ядвігін Ш. **УВАБРАЦЦА (УЗЯЦЦА) У СІЛУ.** *Зак. [Васіль] з Мішам Усцігавым.. разам раслі, а ў сілу ўвабраліся — у адной брыгадзе варочалі; і на прызыў разам пайшлі, таварышавалі...* Грахоўскі.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. неадуш. прадмета (раслін). Хутка расці, буйна развівацца. **Сін**.: набірацца сілы (у 2 знач.); уваходзіць у сілу (у 2 знач.). *Дзічкі на мяжы пачалі ўжо як мае быць убірацца ў сілу.* Чорны. *На Серабранцы цвілі каштаны. Белыя стаўбуны кветак сама браліся ў сілу.* Паўлаў. **УВАБРАЦЦА (УЗЯЦЦА) У СІЛУ.** *Зак.*

**3**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета (вясна, зіма, дзень і пад.). Усталёўвацца, умацоўвацца. **Сін**.: уваходзіць у сілу (у 3 знач.); уступаць у свае правы (у 2 знач.). *Калі ўжо лета ўвабралася ў сілу, брыгада Сілівея Зязюлі скончыла працу на балоце.* Каваль. *Браўся дзень у сілу, і абуджалі вёску галасы...* Чэрня. **УВАБРАЦЦА (УЗЯЦЦА) У СІЛУ.** *Зак.*

**4**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Умацоўваць сваё становішча. **Сін**.: набіраць сілу (у 2 знач.), падымацца на ногі (у 3 знач.); станавіцца на ногі (у 3 знач.);

убірацца ў пер’е (у 2 знач.); уставаць на ногі (у 2 знач.). *Год ад году ішло раўней, і дыхнуць ужо лягчэй можна было, стаў [Глушак] зноў, здаецца, папраўляцца, убірацца ў сілу і весялей глядзець навакол...* Мележ. **УВАБРАЦЦА (УЗЯЦЦА) У СІЛУ.** *Зак. Пакуль што, пакуль не ўвабраліся добра ў сілу, дык ужывалі цішэйшыя назвы, каб не вельмі калола ў вочы немцам і палякам. Але сапраўды — была гэта Чырвоная гвардыя.* Гарэцкі.

**УБІРАЦЦА Ў ГАДЫ.** Гл. уваходзіць.

**УБІР`АЦЦА Ў П`ЕР’Е.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Станавіцца больш сталым, дарослым, моцным; падрастаць. **Сін**.: збірацца з сіламі (у 3 знач.); набірацца сілы (у 3 знач.); убірацца ў сілу (у 3 знач.). **УВАБРАЦЦА (УБРАЦЦА) У ПЕР’Е.** *Зак. — Многа дзяцей, Мацвей, гэта не толькі многа ратоў, але многа і рук... — Чорт іх цяперашнім светам убачыць, тыя рукі. Чуць якое ў пер’е ўбярэцца — то і няма яго.* Лобан. *Хлопец восьмы клас заканчвае, а ты яго — у армію... Дай яму яшчэ ў пер’е ўбрацца.* Савіцкі. *[Уладзімір:] Дай сынам падрасці, у пер’е ўвабрацца, пабудуем гарады і крэпасці, прыструнім смердаў, прымусім халопаў, накормім галодных...* Петрашкевіч.

**2**. Абжывацца, паляпшаючы сваё матэрыяльнае становішча. **Сін**.: набіраць сілу (у 2 знач.); падымацца на ногі (у 3 знач.); станавіцца на ногі (у 3 знач.); убірацца ў сілу (у 4 знач.). **УВАБРАЦЦА (УБРАЦЦА) У ПЕР’Е.** *Зак. — [Саўгасы] павінны цяпер ужо стаць прыкладамі для сялян, як правільна і культурна весці гаспадарку... — Пачакайце трохі, у пер’е ўбяромся — што вы тады скажаце?* Крапіва.

*УБІРАЦЬ* ● **УБІР`АЦЬ (ПРЫБІР`АЦЬ) У <СВА`Е> Р`УКІ.** *Незак. Разм. Неадабр.* **1**. *каго.* Поўнасцю падпарадкоўваць сваёй волі. **Сін**.: браць верх (у 3 знач.); браць у <свае> рукі (у 3 знач.); віць вяроўкі *з каго*; выкручваць сырыцу *з каго*; ездзіць вярхом *на кім*; ездзіць на карку *чым*; запрагаць у аглоблі *каго*; надзяваць аброць *на каго, на што*; надзяваць хамут *на каго*; надзяваць ярмо на шыю *каму, каго*; падмінаць пад сябе *што, каго*; прыбіраць да рук (у 3 знач.); садзіцца на галаву *каму*; садзіцца на карак *каму, чый, каго* (у 3 знач.); сціскаць у кулак *каго.* **УБРАЦЬ (ПРЫБРАЦЬ) У <СВАЕ> РУКІ.** *Зак. [Агата:] Усе яны добрыя, пакуль не ўбярэ каторы дзяўчыны ў свае рукі, а як убярэ, тады на іншы лад, тудэма-сюдэма, зайграе, а ты танцуй пад яго дудку.* Купала. *— Гэта яна так убрала цябе ў рукі? — Ладуцька скасіў вочы ў бок Аксені.* «ЛіМ». *Дзянікін з поўдня, Калчак з Далёкага Усходу, Юдзеніч з захаду, англьцы з поўначы здушылі цесным колам нашу краіну, каб*

*замарыць яе голадам, каб прыбраць нас, галодных, абяскроўленых, у свае рукі...* Колас.

2. *што.* Самавольна завалодваць чым-н., прысвойваць што-н. **Сін**.: браць у <свае> рукі (у 3 знач.); залазіць у кішэнь *чыю, каму, каго*; запускаць ляшча; запускаць руку *ў што, куды*; класці ў <сваю> кішэнь *што*; накладваць лапу (у 3 знач.); прыбіраць да рук (у 2 знач.). **УБРАЦЬ (ПРЫБРАЦЬ) У <СВАЕ> РУКІ** *што. Зак. Іначай як магло стацца, што пан Скірмунт з Альбрэхтава залез у іх хату, прыбраў у свае рукі з-пад іх носа затокі на рэчцы...* Колас.

**УБІР`АЦЬ У СЯБ`Е** *што. Незак. Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Уключаць у свой склад, аб'ядноўваць у сабе. *Кожная мова так ці інакш убірае ў сябе значную колькасць слоў з іншых моў...* Крапіва. **УВАБРАЦЬ У СЯБЕ** *што. Зак. Так і беларуская мова ўвабрала ў сябе пэўную колькасць польскіх, нямецкіх і літоўскіх слоў, некаторую колькасць лацінскіх, французскіх і іншых чужаземных слоў.* Крапіва.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Глыбока ўспрымаць, засвойваць. **УВАБРАЦЬ У СЯБЕ** *што. Зак. Лабановіч увабраў у сябе погляды, думкі, настроі працоўнай сялянскай масы, з якой ён выйшаў.* Казека. *Усё накіроўвалася да таго, каб Адам з малых год увабраў у сябе тую праўду, што ўсё гэта належыць яму аднаму, што толькі ён адзін тут законны спадчыннік.* Чорны.

*УБІЎ* ● **ШТО ЎБ`ІЎ ТО <І> У`ЕХАЎ.** *Часцей прэдык. азн. Разм. Неадабр.* Бесклапотны, гультаяваты, такі, што толькі пад прымусам робіць што-н. Пра чалавека. *[Ладымер:] У твае Галены залатыя рукі. А Тэкля? Што гэта за жанчына! Я гэта заўсёды казаў. Каля нас навокал яснага, золата, а мы — ат, што ўбіў то ўехаў. Папрывыкалі.* Чорны. *[Кажамяка:] Але каб да яго розуму патрэбны кірунак, — карысны чалавек у калгасе. А так што ўбіў то і ўехаў.* Гурскі. *Ах, Яўхім... Які ты ні разумны, а розум твой мужыцкі. Што ўбіў то ўехаў...* Чарнышэвіч. *Сярод дзяцей таксама траплялiся неслухі, што ўбіў то ўехау, падпадалі пад уплыў людзей не лепшых у вёсцы.* Сачанка.

*УБІЦЦА* ● **УБІЦЦА Ў ГАЛАВУ** *каму, чыю. Зак.* да **УБІВАЦЦА Ў ГАЛАВУ** *каму, чыю.*

*УБІЦЬ* ● **Н`ОСА НЕ ЎБ`ІЦЬ (НЕ ЎТКН`УЦЬ, НЕ ПРАС`УНУЦЬ)** *куды. У безас. ужыв. Разм.* Немагчыма прабіцца, пралезці куды-н. з-за цеснаты, непраходнасці. **Сін**.: ні стаць ні сесці; носа няма дзе ўбіць; пальца не ўваб'еш; яблыку няма дзе ўпасці (у 2 знач.). *А за.. [балотам] пайшоў лес такі густы, што і носа не ўбіць.* Якімовіч. *Ладная вольха вымахала. А гушчыня — носа не ўткнеш.* Гіль. *У*

*калідоры народу — не прабіцца: ідзе вясёлае кіно, дык носа не прасунуць у пакой, дзе тэлевізар.* Мыслівец.

**НОСА НЯМА ДЗЕ ЎБІЦЬ.** Гл. няма.

**УБІЦЬ АСІНАВЫ КОЛ У МАГІЛУ** *каго, чаго. Зак. да* **ЎБІЦЬ АСІНАВЫ КОЛ У МАГІЛУ** *каго, чаго.*

**УБІЦЬ КЛІН** *паміж кім, паміж чым. Зак. да* **ЎБІВАЦЬ КЛІН** *паміж кім, паміж чым.*

**УБІЦЬ САБЕ Ў ГАЛАВУ** *што. Зак. да* **ЎБІВАЦЬ САБЕ Ў ГАЛАВУ** *што.*

**УБІЦЬ У ГАЛАВУ** *каму што. Зак. да* **ЎБІВАЦЬ У ГАЛАВУ** *каму што.*

*УБОЙ* ● Карміць **ЯК НА ЎБ`ОЙ.** *Акал. Праст.* Вельмі сытна, пажыўна. *[Далікатны:] Чым мне спадабайся першы дзень адпачынку — дык гэта сталоўкай. Кормяць — як на ўбой.* Гілевіч. *Лёнька не ўтрымаўся ад усмешкі: — Праўда што: матка цябе корміць як на ўбой.* Кірылаў.

*УБОК* ● **ЖАРТЫ ЎБОК.** Гл. жарты.

*УБРАЦЦА* ● **УБРАЦЦА Ў ПЕР'Е.** *Зак. да* **ЎБІРАЦЦА Ў ПЕР'Е.**

*УБРАЦЬ* ● **УБРАЦЬ У <СВАЕ> РУКІ.** *Зак. да* **ЎБРАЦЬ У <СВАЕ> РУКІ.**

*УБРЫКНУЎ* ● **КАБ КОТ УБРЫКНУЎ** *каго.* Гл. кот.

*УВАБ'ЕШ* ● **П`АЛЬЦА (П`АЛЕЦ) НЕ ЎВАБ'`ЕШ (НЕ ЎС`УНЕШ, НЕ ПРАТКН`ЕШ).** *У безас. ужыв. Разм.* Немагчыма прабіцца, пралезці куды-н. з-за цеснаты, непраходнасці і пад. **Сін.**: ні стаць ні сесці; носа не ўбіць <*куды*>; носа няма дзе ўбіць; яблыку няма дзе ўпасці (у 2 знач.). *Цесненькі русаковіцкі клуб запоўнены дарэшты. Пальца не ўваб'еш!* Асіпенка. *Каб [у звярынцы] воўк да коз не мог дабрацца ні праз той верх, ні падкапацца — не ўсунеш пальца там нідзе ты.* Колас. *У магазіне было біткам набіта людзей — палец не праткнеш.* М.Капыловіч.

*УВАБРАЦЦА* ● **УВАБРАЦЦА Ў ПЕР'Е.** *Зак. да* **ЎБІРАЦЦА Ў ПЕР'Е.**

**УВАБРАЦЦА Ў СІЛУ.** *Зак. да* **ЎБІРАЦЦА Ў СІЛУ.**

*УВАБРАЦЬ* ● **УВАБРАЦЬ У СЯБЕ** *што. Зак. да* **ЎБІРАЦЬ У СЯБЕ** *што.*

*УВАГІ* ● **НУЛЬ УВАГІ** *каму, чаму, на каго, на што.* Гл. нуль.

*УВАГНАЦЬ* ● **УВАГНАЦЬ У МАГІЛУ** *каго. Зак. да* **ГНАЦЬ У МАГІЛУ** *каго.*

**УВАГНАЦЬ У ПОТ** *каго. Зак. да* **ЎГАНЯЦЬ У ПОТ** *каго.*

*УВАГУ* ● **ЗВЯРНУЦЬ НА СЯБЕ ЎВАГУ.** *Зак. да* **ЗВЯРТАЦЬ НА СЯБЕ ЎВАГУ.**

**ЗВЯРНУЦЬ УВАГУ** *на каго, на што. Зак. да* **ЗВЯРТАЦЬ УВАГУ** *на каго, на што.*

**ПРЫМАЦЬ ПАД УВАГУ** *што.* Гл. прымаць.

*УВАЗЕ* ● **МЕЦЦА НА ЎВАЗЕ.** Гл. мецца.

**МЕЦЬ НА ЎВАЗЕ.** Гл. мець.

*УВАЙСЦІ* ● **УВАЙСЦІ Ў ВУШЫ** *каму, чые. Зак. да* **ЎВАХОДЗІЦЬ У ВУШЫ** *каму, чые.*

**УВАЙСЦІ Ў ГАДЫ.** *Зак. да* **ЎВАХОДЗІЦЬ У ГАДЫ.**

**УВАЙСЦ`І Ў ГІСТ`ОРЫЮ.** *Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Стаць вядомым, захавацца ў памяці людзей. *Рукой «выкладчыка» вадзілі «філосафы», выхаваныя на старых догмах. Тым не менш імя Андрэевай у сумным адценні ўвайшло ў гісторыю.* Кацюшэнка.

**УВАЙСЦІ Ў ДАВЕР'Е** *да каго, каму, к каму. Зак. да* **ЎВАХОДЗІЦЬ Ў ДАВЕР'Е** *да каго, каму, к каму.*

**УВАЙСЦІ Ў ДУШУ** *каго, чыю. Зак. да* **ЎВАХОДЗІЦЬ У ДУШУ** *каго, чыю.*

**УВАЙСЦІ Ў КУРС** *чаго. Зак. да* **ЎВАХОДЗІЦЬ У КУРС** *чаго.*

**УВАЙСЦІ Ў ПЛОЦЬ І КРОЎ** *каго, чаго. Зак. да* **ЎВАХОДЗІЦЬ У ПЛОЦЬ І КРОЎ** *каго, чаго.*

**УВАЙСЦ`І Ў ПР`ЫМАЎКУ**. *Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Стаць агульнавядомым, усімі прызнаным. *Які валадар будзе радавацца таму, што ягонага зяця навапрадцы любяць болей? Навапрадцы, чые палкі і цяпер лепшыя ў войску, чыя ганарлівасць увайшла ў прымаўку…* Іпатава. *Храбрасць Садзіленкі ўвайшла ў прымаўку.* «ЛіМ».

**УВАЙСЦІ Ў РОЛЮ.** *Зак. да* **ЎВАХОДЗІЦЬ У РОЛЮ.**

**УВАЙСЦІ Ў <САМОГА> СЯБЕ.** *Зак. да* **ЎВАХОДЗІЦЬ У <САМОГА> СЯБЕ.**

**УВАЙСЦІ Ў <СВАЕ> БЕРАГІ.** *Зак. да* **ЎВАХОДЗІЦЬ У <СВАЕ> БЕРАГІ.**

**УВАЙСЦІ Ў СВАЕ ПРАВЫ.** *Зак. да* **ЎВАХОДЗІЦЬ У СВАЕ ПРАВЫ.**

**УВАЙСЦІ Ў <СВАЁ> РЭЧЫШЧА.** *Зак. да* **ЎВАХОДЗІЦЬ У <СВАЁ> РЭЧЫШЧА.**

**УВАЙСЦІ Ў <СВАЮ> КАЛЯІНУ.** *Зак. да* **ЎВАХОДЗІЦЬ У <СВАЮ> КАЛЯІНУ.**

**УВАЙСЦІ Ў СІЛУ.** *Зак. да* **ЎВАХОДЗІЦЬ У СІЛУ.**

**УВАЙСЦІ Ў СМАК.** *Зак. да* **ЎВАХОДЗІЦЬ У СМАК.**

**УВАЙСЦІ Ў СТРОЙ.** *Зак. да* **ЎВАХОДЗІЦЬ У СТРОЙ.**

**УВАТКНУЦЬ <СВОЙ> НОС** *куды, у што. Зак. да* **ЎТЫКАЦЬ <СВОЙ> НОС** *куды, у што.*

*УВАХОДЗІЦЬ* ● **У АДНО ВУХА ЎВАХОДЗІЦЬ, А Ў ДРУГОЕ**

**ВЫХОДЗІЦЬ** <*у каго, каму*>. Гл. улятае.

**УВАХ`ОДЗІЦЬ (ЗАХ`ОДЗІЦЬ) У ДУШ`У (У С`ЭРЦА)** *каго, чыю. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Глыбока хвалявацъ, станавіцца прадметам пастаянных разважанняў, роздуму і пад. **УВАЙСЦІ (ЗАЙСЦІ) У ДУШУ (У СЭРЦА)** *каго, чыю. Зак. Лоўка выбраў момант узабрацца на плыт. Можа, іменна гэтым і ўвайшоў ён у душу маёра.* Лупсякоў. *Калі Лёня, як быццам на нечы голас, павярнуўся тварам да дома, ён убачыў яе на тым самым ганку, дзе з пацалункамі зайшла ў яго душу — і так нечакана надоўга! — салодкая, невылечная зараза.* Брыль. *У якой з гэтых трох соцень жыве яна, Жэня, якая ўвайшла ў яго сэрца светлым незабыўным вобразам?* Шамякін. *О, Радзіма! Ты разам з вясною ў маё сэрца ўвайшла назаўжды.* Прыходзька.

**УВАХ`ОДЗІЦЬ (УБІР`АЦЦА) У ГАД`Ы.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Станавіцца дарослым. — *Ну, Алесь брат, — за абедам кажа бацька сыну, — годзе бегаць дармаедам, красці садавіну, таптаць сцежкі ў агароды, рэзацца па хаце, ты ўжо ўходзіш, брат, у годы — колькі яму, маці?* Колас. *Гэтакі ты ўдалы хлапец, а вецер у тваёй натуры нейкі ёсць. У гады ўбіраешся, дык пара табе пра сябе падумаць.* Чорны. **УВАЙСЦІ (УВАБРАЦЦА) У ГАДЫ.** *Зак. Вырас ужо, у гады ўвайшоў, а ўсё толькі з дзецьмі гуляе, як маленькі.* Якімовіч.

**УВАХ`ОДЗІЦЬ У В`УШЫ** *каму, чые. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. **УВАЙСЦІ Ў ВУШЫ** *каму, чые. Зак.* Чуцца, успрымацца на слых. *Я нарадзіўся праз сем гадоў пасля вайны, і само гэта слова – «вайна» – калі і не ўвайшло ў мае вушы першым, папярэдзе мамы ды таты, дык было адным з першых.* Кажадуб.

**УВАХ`ОДЗІЦЬ У К`УРС** *чаго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знаёміцца дэталёва ці ў агульных рысах з чым-н. *Сёмка Ямкавы доўгі і здаровы. Старыя людзі гавораць, што лепшага канавала на свеце няма. Ён зразу ўваходзіць у курс справы.* Чорны. **УВАЙСЦІ Ў КУРС** *чаго. Зак. Алесь хутка ўвайшоў у курс справы, асвойтаўся з жыццём участка.* Шынклер. — *Семінар? — яшчэ больш здзівіўся рэдактар. — Прабачце, я толькі з Сочы... У курс, так сказаць, яшчэ не ўвайшоў... Які семінар?* Аношкін.

**УВАХ`ОДЗІЦЬ (УЛ`АЗІЦЬ, УЦІР`АЦЦА) У ДАВ`ЕР'Е (У ДАВЕР)** *да каго, каму, к каму. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дабівацца чыёй-н. прыхільнасці любымі сродкамі. **Сін**.: лезці ў душу *чыю, каго, каму* (у 3 знач.). *Якаў Аляксеевіч вырашыў, што Міхаіл Васільевіч уваходзіць у давер к фашыстам.*

Міх. Ткачоў. **УВАЙСЦІ (УЛЕЗЦІ, УЦЕРЦІСЯ) У ДАВЕР’Е (У ДАВЕР)** *да каго, каму, к каму. Зак. Рудкоўская павінна была моцна замацавацца ў тыле ворага, увайсці ў давер фашыстам, улезці ў іх асяроддзе.* Гамолка. *[Кузьмін:] Хто табе даваў такое заданне? [Вікця:] Вусаты раіў улезці да яго [немца] у давер’е.* Крапіва.

**УВАХ`ОДЗІЦЬ У ПЛ`ОЦЬ І КР`ОЎ** *каго, чаго, чыю. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Арганічна засвойвацца, моцна ўкараняцца, становячыся прывычным, неабходным. **УВАЙСЦІ Ў ПЛОЦЬ І КРОЎ** *каго, чаго, чыю. Зак. Арыентацыя на перавышэнне сусветных дасягненняў павінна, як гаворыцца, увайсці ў плоць і кроў усіх працоўных калектываў, усіх гаспадарчых органаў.* «Звязда». *Гэта паняцце [памяць роднай зямлі] — не проста штосьці высокае і сімвалічнае, не штосьці абстрактнае, а тое, што ўвайшло ў плоць і кроў гэтых людзей.* «Полымя». *Долар увайшоў у кроў і плоць [амерыканскага] грамадства, у яго свядомасць.* Вярцінскі. *Гісторыя балючая, бы рана. Яна ўвайшла ў нашу плоць і кроў і плоццю і крывёю продкаў нашых.* Каржанеўская.

**УВАХ`ОДЗІЦЬ У Р`ОЛЮ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. *каго.* Асвойвацца з абавязкамі каго-н. *Парыцарску [Назар] увіхаўся каля баяркі Юстыны, весела, але з адданасцю сур’ёзнага акцёра сам уваходзіў у ролю дружкі.* Шамякін. *Як хутка ўваходзяць у ролю настаўніц дзяўчаты! У іх прыроджаны дар.* Навуменка. **УВАЙСЦІ Ў РОЛЮ** *каго. Зак.*

**2**. Натуральна, праўдзіва пераўвасабляцца. *Тут ужо Крамарэвіч заўважыў, што Коля пачаў трымацца як гаспадар усяго тут. Перад Крамарэвічам ён увайшоў у ролю.* Чорны. **УВАЙСЦІ Ў РОЛЮ.** *Зак. «Як яны здорава ўвайшлі ў новую ролю!» — думаў Лёня, чокаючыся з гэтымі, калісьці недаступнымі для яго людзьмі.* Брыль.

**УВАХ`ОДЗІЦЬ У <САМ`ОГА> СЯБ`Е.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Аддавацца роздуму, быць захопленым сваімі думкамі, перажываннямі. **УВАЙСЦ`І Ў <САМ`ОГА> СЯБ`Е.** *Зак. Трэба глыбей увайсці ў сябе і там шукаць крыніц радасці і здаровага пачуцця. І трэба, наогул, узяць сябе ў рукі.* Колас. *Сёстры.., успамінаючы той час, гавораць, што іх брат стаў тады вельмі маўклівы, задуменны, увайшоў у сябе, імкнуўся аставацца сам з сабой.* Чорны.

**2**. Станавіцца нелюдзімым, маўклівым, скрытным. **Сін**.: замыкацца ў сабе. **УВАЙСЦІ Ў <САМОГА> СЯБЕ.** *Зак. [Парфен] рана аўдавеў, і з дзяцей у яго была адна толькі дачка. Ён тады зусім як бы ўвайшоў у самога сябе.* Чорны.

**УВАХ`ОДЗІЦЬ У <СВА`Е> БЕРАГ`І.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Прымаць звычайны накірунак, прывычны рытм, характар. **Сін**.: станавіцца на <сваё> месца; уваходзіць у <сваё> рэчышча; уваходзіць у <сваю> каляіну (у 2 знач.). *Тады, як паспакайнела, усё пачало ўваходзіць у свае берагі, але доўга яшчэ ў крыклівай трывозе ўяўленні поўніліся надзвычайнаю шырынёю даляглядаў.* Чорны. **УВАЙСЦІ Ў <СВАЕ> БЕРАГІ.** *Зак. Не, яны [пісьменнікі] і ў думках не мелі адседзецца ў зацішку, пакуль падзеі ўвойдуць у берагі і стануць аб'ектам «шырокіх эпічных палотнаў».* Бярозкін. *Маё сямейнае жыццё ўвайшло ў свае берагі, ідзе роўна і спакойна.* Гаўрылкін.

**УВАХ`ОДЗІЦЬ У <СВА`Ё> Р`ЭЧЫШЧА.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Прымаць звычайны рытм, характар. **Сін**.: станавіцца на <сваё> месца; уваходзіць у <свае> берагі; уваходзіць у <сваю> каляіну (у 2 знач.). *Жыццё, здаецца, уваходзіла ў сталае рэчышча — любімая работа, цяжкасці, поспехі, спрэчкі.* Карпаў. **УВАЙСЦІ Ў <СВАЁ> РЭЧЫШЧА.** *Зак. Жыццё ўвайшло ў сваё рэчышча. Перамаглося нямала перашкод на шляху да лепшага.* Пестрак.

**УВАХ`ОДЗІЦЬ У <СВА`Ю> КАЛЯ`ІНУ (КАЛЯ`Ю).** *Незак. Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вяртацца да прывычнага спосабу жыцця. **Ант**.: выбівацца з каляіны (у 3 знач.). *Брат Аксаны разумеў, што сястра толькі пачынае ўваходзіць у каляіну нармальнага жыцця, якое цяпер рэальна ўкладваецца для яе ў існаванне маленькай дачкі.* Кавалёў. **УВАЙСЦІ Ў <СВАЮ> КАЛЯІНУ (КАЛЯЮ).** *Зак. Асталяваўшыся, Лабановіч увайшоў у каляіну дамашняга жыцця.* Колас.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Прымаць звычайны рытм, характар. **Сін**.: станавіцца на <сваё> месца; уваходзіць у <свае> берагі; уваходзіць у <сваё> рэчышча. *Жыццё такароўцаў уваходзіла ў сваю звычайную каляю.* Бядуля. **УВАЙСЦІ Ў <СВАЮ> КАЛЯІНУ (КАЛЯЮ).** *Зак. Вы кажаце, што для гэтага патрэбна моцная армія? І армія будзе. Усё з часам увойдзе ў сваю каляіну.* Гурскі. *Працоўны дзень увайшоў у каляю. Я пачаў хадзіць у клуб і, вядома, не прапускаў ніводнай вечарынкі.* Чарнышэвіч. *І вось, калі яму [Бяссмертнаму] здавалася, што ўсё ўвайшло ў каляіну, што ён адчуў ранейшую сілу і спрыт у сваім целе і адкінуў сумненні, якія апанавалі яго ў час хваробы, ён атрымаў смяртэльны ўдар.* Дамашэвіч.

**УВАХ`ОДЗІЦЬ У С`ІЛУ.** *Незак. Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Набываць больш трывалае, незалежнае

становішча, умацоўваць свае пазіцыі. **УВАЙСЦІ Ў СІЛУ.** *Зак. Цэлы дзень Ганулія была дома. А ўвечар пайшла. І сказала, што прыйдзе па Лізавету, калі тая ўвойдзе ў сілу.* Чорны.

**2**. Ужыв. пры дзейн., які абазначае назвы раслін. Хутка расці, бурна развівацца. **Сін**.: набірацца сілы (у 2 знач.); убірацца ў сілу (у 2 знач.). **УВАЙСЦІ Ў СІЛУ.** *Зак. Бярозкі ўжо ўвайшлі ў сілу, набраліся маладога хараства.* Капусцін.

**3**. Ужыв. пры дзейн., выраж. наз. *вясна, зіма, раніца, змрок* і пад. Усталёўвацца, умацоўвацца. **Сін**.: убірацца ў сілу (у 3 знач.); уступаць у свае правы (у 2 знач.). *Восень, што далей, то ўсё болей уваходзіла ў сілу.* Калюга. *Змрок яшчэ больш насупіўся калматымі бровамі і пачаў уваходзіць у сваю сілу.* Баранавых. *Тым часам раніца ўваходзіла ў сілу. Небасхіл на ўсходзе гарэў цяпер шырокім і яркім полымем.* Сіняўскі. **УВАЙСЦІ Ў СІЛУ.** *Зак.*

**4**. Ужыв. пры дзейн., выраж. наз. *дагавор, закон* і пад. Станавіцца законным, набываць законныя падставы. **Сін**.: уступаць у сілу. **УВАЙСЦІ Ў СІЛУ.** *Зак. Прыгавор увайшоў ужо ў законную сілу. Цяпер трэба думаць, што далей рабіць.* Мядзёлка.

**УВАХ`ОДЗІЦЬ У СМ`АК.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Праяўляючы цікавасць, паступова прывыкаць, асвойвацца; пачынаць адчуваць задавальненне ад чаго-н. **УВАЙСЦІ Ў СМАК.** *Зак. Цяпер старых і не адгоніш адгэтуль: у смак увайшлі Уся гэта справа сталася блізкаю, душу мазоліла, думкі займала.* Колас. *За дзень яна [Марына] прачытала старонак пяцьдзесят, але ў смак, як кажуць, не ўвайшла.* Шахавец. *[Рафік] пачаў расказваць камандзіру пра свае прыгоды, але толькі ўвайшоў у смак, як з кустоў паказаўся стройны, з кабурою на баку, чалавек у вайсковым.* Лецка.

**УВАХОДЗІЦЬ У СВАЕ ПРАВЫ.** Гл. уступаць.

**УВАХОДЗІЦЬ У СТРОЙ.** Гл. уступаць.

*УВАЧЧУ* ● **СТАЯЦЬ УВАЧЧУ** *каму, перад кім, у каго.* Гл. стаяць.

*УВЕРХ* ● **ГЛЯДЗЕЦЬ ЗНІЗУ ЎВЕРХ** *на каго, на што.* Гл. глядзець.

**ПЕРАВАРОЧВАЦЦА ЎВЕРХ ДНОМ.** Гл. пераварочвацца.

**ПЕРАВАРОЧВАЦЬ УВЕРХ ДНОМ** *што.* Гл. пераварочваць.

**УВЕРХ ДНОМ.** Гл. дагары.

*УВЕСЦІ* ● **УВЕСЦІ Ў ВУШЫ** *каму што. Зак. да* **ЎВОДЗІЦЬ У ВУШЫ** *каму што.*

**УВЕСЦІ Ў КУРС** *чаго каго. Зак. да* **УВОДЗІЦЬ У КУРС** *чаго каго.*

*УВЕСЬ* ● **ЗАСЛАНЯЦЬ <УВЕСЬ> СВЕТ** *каму.* Гл. засланяць.

**НА ЎВЕСЬ ГОЛАС.** Гл. голас.

**НА ЎВЕСЬ ДУХ.** Гл. дух.

**НА ЎВЕСЬ МАХ.** Гл. мах.

**НА ЎВЕСЬ РОСТ.** Гл. рост.

**НА ЎВЕСЬ РОТ.** Гл. рот.

**НА ЎВЕСЬ СВЕТ.** Гл. свет.

**УВ`ЕСЬ ПЕРАТВАР`ЫЎСЯ Ў СЛ`ЫХ.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачаў вельмі ўважліва прыслухоўвацца да чаго-н. **Сін.**: навастрыць вушы; наставіць вушы; натапырыць вушы; развесіць вушы. *Міхал скінуў стрэльбу з пляча і ператварыўся ўвесь у слых.* С.Александровіч. *У камандзірскай зямлянцы над рацыяй сядзела Стася... Дзяўчына ўся ператварылася ў слых.* Карпюк. *Нарэшце галасы сталі ціхшэць, і Чубар яшчэ больш насцярожыўся, увесь ператварыўся ў слых, каб не прапусціць ніякага гуку.* Чыгрынаў. *Дзетка нічога ўжо больш не бачыў і не заўважаў, увесь ператварыўся ў слых.* Лынькоў.

*УВОДЗІЦЬ* • **УВ`ОДЗІЦЬ (УКЛ`АДАЦЬ, УКЛ`АДВАЦЬ) У В`УШЫ** *каму што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці няпэўнай сукупнасці асоб. **1**. Расказваць, перадаваць, паведамляць; даводзіць да ведама. *[Ганьчын] клас селіцца наводшыбе, у невялічкім будынку, празваным самімі ж вучнямі «камчаткаю». (Падумаеш, павінна яна яшчэ ўводзіць у вушы кожнаму гэту «камчатку».)* Васілевіч. *А навошта вы, Лішайчык, гэту лухту ў вушы другому ўводзіце?* Чавускі. **УВЕСЦІ (УКЛАСЦІ) У ВУШЫ** *каму што. Зак. Нехта ўвёў у вушы маёй дачцэ, што на базары прадаюць усякіх сабачак, трусікаў, канарэек.* Місько. *Што ж, можа, мне хаця ў апошні раз дадзена будзе ўкласці ў чые-небудзь вушы хаця кавалачак праўды.* Караткевіч.

**2**. *Часцей неадабр.* Частым паўтарэннем настойліва ўнушаць што-н., пераконваючы ў чым-н. **Сін**.: дзяўбці ў галаву *каму, чыю*; капаць на мазгі *каму*; убіваць у галаву *каму што* (у 2 знач.); укладваць у галаву *каму што* (у 2 знач.). *Хто ж пачаў укладаць нам у вушы міф пра «недаробленасць» нашай нацыі?* Астравец. *[Міндоўгу] гэта ўкладвалі ў вушы князь Ізяслаў і ён, Усяслаў.* Далідовіч. **УВЕСЦІ (УКЛАСЦІ) У ВУШЫ** *каму што. Зак. Учора гэтаму прыезджаму начальніку ўвялі ў вушы, што Анішчыка выключылі з калгаса праз кулакоў. А кулакі гэтыя — вы.* Мурашка. *Сірацe ўвёў нехта ў вушы, што ён павінен помсціцца за сваю маці.* Карпюк. *Гэта ён [Гавароўскі] увёў у вушы жандарам, што Салавей набраўся панскага дабра і цяпер на ім раскашуецца ягоная жонка, а сам у «бандыты» падаўся.* Грахоўскі.

**УВ`ОДЗІЦЬ У К`УРС** *чаго каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знаёміць каго-н. дэталёва ці ў агульных рысах з чым-н.

*Дзеля гэтага я павінен уводзіць яго ў курс справы спакваля і знаёміць на прыкладах.* Крапіва. *А цяпер хацела б я прасіць, калега, каб вы ўвялі мяне ў курс школьнае справы, бо я ў ёй ні чорта не разумею.* Колас. **УВЕСЦІ Ў КУРС** *чаго каго. Зак. Пакрысе ён [сын] увёў бацьку ў курс сваіх спраў і абавязкаў, і Ксавэр Блецька ўжо да канца ўвераваў у сына.* Чорны.

*УВУШШУ* ● **СТАЯЦЬ УВУШШУ** *каго.* Гл. стаяць.

*УГАМОНУ* ● **НЯМА ЎГАМОНУ** *на каго.* Гл. няма.

*УГАНЯЦЬ* ● **УГАНЯЦЬ У МАГІЛУ** *каго. Зак. да* **ГНАЦЬ У МАГІЛУ** *каго.*

**УГАН`ЯЦЬ У П`ОТ** *каго, што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымушаць многа і напружана працаваць, аддаючы ўсе сілы. *А вось забастоўшчыкі, рабочыя. Скуры дзяруць з іх, у пот уганяюць.* Лынькоў. **УВАГНАЦЬ У ПОТ** *каго, што. Зак. [Бабровіч:] Фу! Гара з плеч. А я ўсе вылічальныя машыны ў пот увагнаў, падлічваючы.* Крапіва.

*УГАРУ* ● **ІСЦІ ЎГАРУ.** Гл. ісці.

**ПАЙСЦІ ЎГАРУ.** Гл. пайсці.

*УГОРУ* ● **І ЛАПКІ ЎГОРУ.** Гл. лапкі.

**ІСЦІ ЎГОРУ.** Гл. ісці.

**ПАЙСЦІ ЎГОРУ.** Гл. пайсці.

*УДАВА* ● **САЛАМ`ЯНАЯ ЎДАВ`А.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм.* Жанчына, якая часова засталася без мужа або афіцыйна не мела яго. **Ант**.: саламяны ўдавец. *Я была жонкай Халімы... А цяпер ён кінуў мяне... разумееце? І я вось не ведаю, што мне рабіць, дзе шукаць яго... Саламяная ўдава... ха-ха!...* Зарэцкі. *Кладаўшчыцай у калгасе была Ганна Карнілава, саламяная ўдава: у свае маладыя гады — не набрала яшчэ і дваццаці пяці — яна мела двух дзяцей, так званых ветравічкоў-бязбацькавічаў.* Чыгрынаў. *Асабліва радавалася пераводу жонка: «От добра! Часцей будзе дома. А то ўсё на вахце, то ў моры. А я нібы саламяная ўдава..* Левановіч. *Гандзю клікалі на вёсцы саламянаю удавою.* Янішчыц.

*УДАВЕЦ* ● **САЛАМ`ЯНЫ ЎДАВ`ЕЦ.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм.* Мужчына, які знаходзіцца ў часовай разлуцы з жонкай. **Ант**.: саламяная ўдава. *—Значыць, швагер, ты пад старасць будзеш, як той казаў, саламяны ўдавец? — сказаў Даніла ўхмыляючыся.* Чарнышэвіч. *Яечні, калі Андрэй жыў «саламяным удаўцом», я смажыў часта.* Шамякін. *Увечары ён [Васько] дазваніўся да кватэры. Хацеў быў пажартаваць, калі пачуў голас Сяргея Сяргеевіча: як, маўляў, адчувае сябе высокапастаўлены саламяны ўдавец, але нешта стрымала яго.* Асіпенка.

*УДАР* ● **ПАДСТАЎЛЯЦЬ ПАД УДАР** *каго, што.* Гл. падстаўляць.

**УД`АР НІЖ`ЭЙ П`ОЯСА.** *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Разм. Неадабр.* Раптоўная і балючая непрыемнасць, нечакана і нетактоўна прычыненая каму-н. **Сін.**: удар пад дых. *«[Святлана Уладзіславаўна:] Я не думала, што вы такі маленькі і худзенькі...» Для Лукіна, які і сапраўды быў на цэлую галаву ніжэй за Святлану Уладзіславаўну, гэта быў удар, як кажуць баксёры, ніжэй пояса.* Праўдзін.

**УД`АР ПАД Д`ЫХ**. *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Разм. Неадабр.* Раптоўная і балючая непрыемнасць для каго-н. **Сін.**: удар ніжэй пояса. *Лазовік разумеў, куды хіліць першы сакратар. К чаму гэты намёк? Гэта ж удар пад дых. Якое дачыненне мае той пралік, за які сам сабе не можа дараваць, да будаўніцтва комплекса, да аб'яднання калгасаў?* Блакіт. *— Ты на што намякаеш? — Ні на што, я канстатую… Ты таксама дзеля нечага вучыўся ў Акадэміі міліцыі? — Гэта ўдар пад дых, — незадаволена буркнуў Паравалаў.* Праўдзін. *Пісьменнік не паспявае ачомацца ад аднаго ўдару пад дых, як тут жа яго агламошваюць іншай навалай…* Рыбак.

**УД`АР У СП`ІНУ** *каму. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Подлы ўчынак, здрадніцкія паводзіны ў адносінах да каго-н. **Сін.**: нож у спіну *каму. — Мы знаем: вы, таварышы Васілевіч і Нямкевіч, лаяльныя да нас, — сказаў, пільна пазіраючы ім абодвум у вочы. — Але вось іншыя нашыя — не… Вось доказ, што той-сёй пайшоў у падполле і рыхтуе нам удар у спіну…* Далідовіч. *— Дык чаму тады замаўкаеш, ясна не адказваеш пра тое, пра што я пытаю? — Леаніла зноў і зноў была смялейшая за мяне. «Не магу, — было ў мяне на языку, але так з яго і не сарвалася, — бо мне трэба нават на страх самому сабе прызнацца: «Я цябе кахаю», «Я цябе хачу». Але ж як такое сказаць, калі на гэта не маю ніякага права! Нават больш — гэта будзе маім ударам Уладзю ў спіну!»* «Полымя».

*УДАРАНЫ* ● **ЯК (НІБ`Ы) П`ЫЛЬНЫМ МЯШК`ОМ (М`ЕХАМ) УД`АРАНЫ (ПРЫБ`ІТЫ).** *Вык. ці азн. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыдуркаваты, з дзівацтвамі. **Сін.**: богам пакрыўджаны. *Добра, што і чалавек, з якім даводзіцца мець справу, нібы пыльным мяшком ударany... З такімі прасцей, у іх няма ніякіх хітрыкаў...* Лынькоў. *На сорак чалавек — пяць мужчын, і то нейкія нягеглыя, чорт ведае што. Адзін — не прасыхаў ад гарэлкі, двое — з жонкамі, чацвёрты — нейкі як пыльным мехам прыбіты, пяты — лавелас...* Блакіт.

*УДАРАЦЬ* ● **УДАРАЦЬ ПА КІШЭНІ** *чыёй, каго.* Гл. біць.

**УДАР`АЦЬ ПА РУК`АХ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Заключаць якое-н. пагадненне, гандлёвую здзелку, дагавор.

**УДАРЫЦЬ ПА РУКАХ.** *Зак. Ніхто з іх не бачыў, як кружыліся ды прыцэньваліся да хаты купцы. А калі тыя, дамовіўшыся, ударылі па руках і папілі магарыч, з'явіліся адусюль на бацькава селішча сыны і дочкі.* Ракітны. *[Турук:] І будзе мая Тэафілька паняй, будзе багачкаю... Гэта ж дваццаць пяць дзесяцін за Маркам! Дваццаць пяць! Мы сёння з Маркам у карчме ўжо і па руках ударылі* Каліна.

**УДАР`АЦЬ У ГАЛАВ`У** *<каму>. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн., які абазначае пітво. Ап'яняць. **Сін**.: біць па галаве; стукнуць у галаву *каму* (у 3 знач.). **УДАРЫЦЬ У ГАЛАВУ** *<каму>. зак. Выпівалі ўпершыню — гарэлка з непрывычкі ўдарыла ў галаву, яны адразу сп'янелі.* Навуменка. *А яна сваё: «Ты многа выпіў... Шампанскае ў галаву ўдарыла..»* Місько. *Не, гэта гаварыў не я, а каньяк, які цёплай плынню разліўся па ўсім целе і неяк адразу ўдарыў у галаву.* Шальманаў.

**УДАРАЦЬ У НОС.** Гл. біць.

**УДАРАЦЬ У ХАМУТ.** Гл. біць.

*УДАРЫЛА* ● **КРОЎ УДАРЫЛА Ў ГАЛАВУ** *каму.* Гл. кроў.

**КРОЎ УДАРЫЛА Ў ТВАР** *каму, каго.* Гл. кроў.

**МАЧА Ў ГАЛАВУ ЎДАРЫЛА** *каму.* Гл. мача.

*УДАРЫЎ* ● **ХМЕЛЬ УДАРЫЎ У ГАЛАВУ** *каму.* Гл. хмель.

*УДАРЫЦЬ* ● **НЕ ЎД`АРЫЦЬ ТВ`АРАМ У ГР`АЗЬ.** *Зак. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паспяхова справіцца з чым-н., не асарамаціцца, выканаўшы што-н. найлепшым чынам. **Ант**.: падаць <тварам> у гразь; пляснуцца <тварам> у лужыну. — *Наш Рыгор Апанасавіч не ўдарыць тварам у гразь, — шапнула Марылька Васіліне. — Бачыш, як прыбраўся, быццам дзесяць гадоў з сябе скінуў.* Хадкевіч. *Трэба было не ўдарыць тварам у гразь на «паказальных» фермах, і кіраўнікі гаспадаркі не шкадавалі часу на кантроль за іх падрыхтоўкай.* «Звязда». *І толькі, таварышы, трэба вам ведаць — тосты і мы гаварылі не раз, і перад вамі за гэтай бяседай тварам, як кажуць, не ўдарым у гразь.* Глебка.

**П`АЛЕЦ (П`АЛЬЦАМ) АБ П`АЛЕЦ НЕ ЎД`АРЫЦЬ (НЕ СТ`УКНУЦЬ).** *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Нічога не зрабіць, нічым не дапамагчы каму-н. **Сін**.: <і> пальцам не варухнуць. *Людзі жыццё паклалі, каб выгнаць фашыста, а вы тут палец аб палец не ўдарылі.* Асіпенка. *Гады два Леўка і палец аб палец не ўдарыў у бацькавай хаце.* Сабаленка. *Усё ж такі хутка пачалі скардзіцца: чалавек пальцам аб палец не ўдарыць, а калі што-небудзь робіць, дык як той верабей лапкай...* Бядуля. *Пальцам аб палец не ўдарыў за васемнаццаць гадоў. Толькі і ведаеш, што свінячыць!* Ласкоў. *Расказвала [Рыва] пра краўца Лёву, які сядзіць*

*над іголкай ад усходу да заходу сонца, а жонка — гультай адвечны — палец аб палец не стукне, выкручвае носам перад люстэркам ды цэлы дзень распявае...* Лынькоў.

**УДАРЫЦЬ ПА КІШЭНІ** *чыёй, каго. Зак. да* **ЎДАРАЦЬ ПА КІШЭНІ** *чыёй, каго.*

**УДАРЫЦЬ ПА РУКАХ.** *Зак. да* **ЎДАРАЦЬ ПА РУКАХ.**

**УД`АРЫЦЬ ПА ЦЫМБ`АЛАХ**. *Зак. Праст. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Паўдзельнічаць у гулянцы з багатай выпіўкай. *Можна будзе.. пабыць у горадзе, дзе зусім іншы дух, сустрэцца з сябрамі і разам з імі «ўдарыць па цымбалах» — махнуць рукой на цяжкі час.. і як след павесяліцца.* Далідовіч. *Ну што, дзядзька Апанас, ударым па цымбалах?* «Полымя».

**УДАРЫЦЬ У ГАЛАВУ** *<каму>. Зак. да* **ЎДАРАЦЬ У ГАЛАВУ** *<каму>.*

**УД`АРЫЦЬ У НАБ`АТ.** *Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Настойліва звярнуць усеагульную ўвагу на што-н. небяспечнае, заклікаючы да барацьбы з ім. **Сін.**: забіць трывогу. *Савецкі Саюз першы ўдарыў у набат, папярэдзіўшы міжнароднае супольніцтва аб пагрозе прыходу фашызму да ўлады ў Германіі.* «Звязда».

**УД`АРЫЦЬ У Н`ОС.** *Зак. Часцей у 3-й ас. цяп. ці ў пр. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Востра, рэзка запахнуць, выклікаючы адмоўную рэакцыю. **Сін.**: даць у нос. *У вялікім класным пакоі, адведзеным пад каравулку, ударыла ў нос спёртым паветрам, тытунёвым смуродам.* Навуменка. *Востры звярыны пах ударыў яму ў нос.* В.Вольскі.

**УД`АРЫЦЬ У ХАМ`УТ.** *Зак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рашуча не пагадзіцца, заўпарціцца. **Сін.**: даць у хамут; на хвост стаць; стаць на дыбкі. *Тут сам ксёндз ударыў у хамут, бо яго батракоў арыштавалі, а на гаспадарцы рабіць не было каму.* Машара. *[Жэня] спрабавала частку грузу перакласці на дзяўчат, дык тыя адна за другой ўдарылі ў хамут.* Стральцоў. *Як даведаўся я, што гэта ваш, Нупрэй, сынок, я адразу ўдарыў у хамут: я, маўляў, спец па зямлянках, суседа ўзяць не змагу.* Сіпакоў. *Кастусь напачатку, калі даведаўся, што яго накіроўваюць на цагельню, як кажуць, ударыў у хамут.* Шальманаў.

**ЯК АБУХОМ ПА ГАЛАВЕ ЎДАРЫЦЬ** *каго.* Гл. стукнуць.

*УДЖАЛЕНЫ* ● <u>*Падхапіцца, ускочыць*</u> і пад. **ЯК УДЖ`АЛЕНЫ (-АЯ, -АЕ, -ЫЯ).** *Акал. Разм.* Вельмі рэзка, імкліва. **Сін.**: як апараны <кіпнем> (у 3 знач.); як на спружынах. *Навуменка падскочыў на*

*крэсле як уджалены, ірвануў абедзвюма рукамі гімнасцёрку за падол, адразу без сваіх звычайных галасавых мадуляцый узвіўся да пранізлівага віску.* Радкевіч. *Як уджаленая падхапілася маці.* Гіль. *[Таня] ускочыла як уджаленая, ледзь кнігу з рук не ўпусціла і, часта-часта міргаючы густа падмаляванымі вейкамі, спалохана пазірала.* Бондар.

*УДЗЕЛЬНАЯ* ● **УДЗЕЛЬНАЯ ВАГА** *чаго, каго, чыя ў чым.* Гл. вага.

*УДЗЯЛІЎ* ● **БОГ СЕМЯРЫМ НЁС ДЫ АДНАМУ ЎДЗЯЛІЎ.** Гл. бог.

*УДЗЯЎБЦІ* ● **УДЗЯЎБЦІ Ў ГАЛАВУ** *каму, чыю. Зак. да* **ДЗЯЎБЦІ Ў ГАЛАВУ** *каму, чыю.*

*УДОЎЖ* ● **УД`ОЎЖ (УЗД`ОЎЖ) І ЎП`ОПЕРАК.** *Акал.* **1**. *Функц. Не зам. Ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр.* У розных напрамках (прайсці, праехаць і пад.). **Сін**.: ад краю да краю; з канца ў канец; з краю ў край. *[Ганна:] Горад добра ведаеш? [Верхаводка:] Удоўж і ўпоперак на жываце вымераў.* Кучар. *За колькі год свайго леснікоўства [Нупрэй] абышоў і аблазіў дзесяткі вёрст удоўж і ўпоперак.* Макарэвіч. *За лета настаўнік скалясіў Абаянскі павет уздоўж і ўпоперак.* С.Александровіч. *Пад нагамі ўздрыгвала і ўгіналася балотная глеба, перарэзаная ўздоўж і ўпоперак канавамі* М. Капыловіч.

**2**. *Разм.* Вельмі падрабязна, да дробязей (ведаць, вывучаць і пад.). **Сін**: як аблупленага; як ойча наш; як свае пяць пальцаў; як табліцу множання. *Калі яны [хлопцы] ехалі з горада, Сяргей даў ім некалькі кніжак. Усе яны перачытаны ўжо ўдоўж і ўпоперак.* Брыль.

*УДЫХНУЦЬ* ● **УДЫХН`УЦЬ ДУШ`У** *ў што. Зак. Функц. не зам. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ажывіць, адрадзіць што-н. *Спецыялісты працавалі па-старому, крыху забюракраціліся. Тады ўдыхнуў, як кажуць, душу ў жыццё цэхаў новы дырэктар Іван Мікалаевіч.* «Вожык».

*УЕСЦІСЯ* ● **УЕСЦІСЯ Ў КОСЦІ** *каму. Зак. да* **ЎЯДАЦЦА Ў КОСЦІ** *каму.*

**УЕСЦІСЯ Ў ПЯЧОНКІ** *каму. Зак. да* **ЎЯДАЦЦА Ў ПЯЧОНКІ** *каму.*

*УЕХАЎ* ● **ШТО ЎБІЎ ТО <І> ЎЕХАЎ.** Гл. убіў.

*УЕХАЦЬ* ● **НА ЧУЖЫМ ГАРБУ Ў РАЙ УЕХАЦЬ.** *Зак. да* **НА ЧУЖЫМ ГАРБУ Ў РАЙ ЕХАЦЬ.**

*УЗАД* ● **НІ ЎЗ`АД (НІ НАЗ`АД) НІ ЎП`ЕРАД.** *Акал. Разм.* Ні ў адным з мажлівых напрамкаў (не магчы рухацца). **Сін**.: ні туды <і> ні сюды (у 2 знач.). *Дзесяць дзён стаялі. Ні ўзад ні ўперад. Нельга ж было без дазволу кідаць народнае дабро!* Карпаў. *Хлопцы вельмі часта*

*траплялі ў такі тупік, што ні ўперад ні назад.* Чарнышэвіч.

**ПАПАСЦІСЯ Ў НЕРАТ <НІ ЎЗАД НІ ЎПЕРАД>.** Гл. папасціся.

**ТО ЎЗ`АД ТО ЎП`ЕРАД.** *Акал. Разм.* У розныя бакі, у розных кірунках; з аднаго боку ў другі, супрацьлеглы (хадзіць, бегаць і пад.). **Сін**.: з кута ў кут; <і> туды і сюды; сюд-туд (у 3 знач.); сюды-туды (у 3 знач.); то туды то сюды; узад і ўперад. *Яшчэ ніхто і ўставаць не думаў, а ён ужо снуе то ўзад то ўперад*; *ідзі ляж, пакуль свет.* Галубок.

**УЗ`АД І ЎП`ЕРАД (УЗ`АД-УП`ЕРАД).** *Акал. Разм.* З аднаго боку ў другі; у розных кірунках (хадзіць, бегаць і пад.). **Сін**.: з кута ў кут; туды і сюды; сюд-туд (у 3 знач.); сюды-туды (у 3 знач.); то туды то сюды; то ўзад то ўперад. *За вокнамі ластаўкі без перапынку лётаюць узад і ўперад і, падлятаючы да сцяны дома, нешта жвава шчабечуць, нібы вітаючыся адна з адною.* Нёманскі. *Па пляцоўцы за яго плячыма ўзад і ўперад хадзілі вартавыя.* Самуйлёнак. *Над востравам узад-уперад, то абганяючы Сцёпку, то насустрач яму, шыбавала чарада чаек.* Ласкоў.

*УЗБІСЯ* ● **ХОЦЬ <ТЫ> НА ВОЎКА ЎЗБІСЯ.** Гл. узлезь.

*УЗБРАЕННЕ* ● **БРАЦЦА НА ЎЗБРАЕННЕ** *кім.* Гл. брацца.

**БРАЦЬ НА ЎЗБРАЕННЕ** *што.* Гл. браць.

*УЗБРЫСЦІ* ● **УЗБРЫСЦ`І НА Р`ОЗУМ (НА Д`УМКУ)** *каму. Зак. Разм. Часцей у безас. ужыв.* Раптоўна, выпадкова з'явіцца ў свядомасці. Пра ідэю, думку і пад. **Сін**.: лезці ў галаву *каму*; прыходзіць на думку *каму* (у 3 знач.); прыходзіць у галаву *каму* (у 3 знач.); стрэліць у галаву *каму*; стукнуць у галаву *каму* (у 3 знач.); узбрысці ў галаву *каму* (у 3 знач.); усплываць на памяць *каму, у каго*; усплываць у памяці *каго, чыёй*; цюкнуць у галаву *каму*. *«Чаго крычыш поначы, нібы ўпіўшыся? — думка вярзлася ў Ваціка. — Што толькі не ўзбрыдзе чалавеку на розум».* Баранавых. *З горнаю злосцю Баляслаў думаў: «Як гэта табе на думку можа ўзбрысці гэтакае...»* Чорны.

**УЗБРЫСЦ`І НА ЯЗ`ЫК** *каму. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Міжвольна сказацца. **Сін**.: зрывацца з вуснаў *чыіх, каго*; зрывацца з языка *чыйго, у каго*; лезці на язык *каму*; не сходзіць з вуснаў *чыіх, каго*; не сходзіць з языка *чыйго, у каго*; прыходзіць на язык *каму* (у 3 знач.). *Дагнаўшы жанчыну, Іван глянуў ёй у твар, убачыў, што ён маршчыністы, стары, і сказаў, што першае ўзбрыло на язык: — Куды, бабка, тэпаеш?* А.Марціновіч. *Я не адважваўся пры Ліне вярзці, што ўзбрыдзе на язык.* «Маладосць».

**УЗБРЫСЦ`І Ў ГАЛАВ`У** *каму. Зак. Разм.* **1**. *Часцей у безас. ужыв.*

Раптоўна, выпадкова з'явіцца ў свядомасці. Пра думку, ідэю і пад. **Сін**.: лезці ў галаву *каму*; прыходзіць на думку *каму* (у 3 знач.); прыходзіць у галаву *каму* (у 3 знач.); стрэліць у галаву *каму*; сгукнуць у галаву *каму* (у 3 знач.); узбрысці на розум *каму*; усплываць на памяць *каму, у каго*; усплываць у памяці *каго, чыёй*; цюкнуць у галаву *каму. Вяртацца назад міма дапытлівых воч Міцюры зусім не хацелася. Яшчэ невядома, што ўзбрыдзе такому ў галаву.* Арочка. *Будзе такі чалавек гаварыць пра ўсё, што ў галаву ўзбрыдзе, толькі б не маўчаць...* М.Капыловіч. *Лісовіч, каб не маўчаць, сказаў першае, што ўзбрыло ў галаву...* Кузьмянкоў.

**2**. У *безас. ужыв. Часцей у спалучэнні з інф.* Адчуць патрэбнасць у чым-н., захацець, наважыцца. **Сін**.: прыходзіць на думку (у 3 знач.); прыходзіць у галаву *каму* (у 3 знач.); стукнуць у галаву *каму* (у 2 знач.). *І як толькі прыносіў [Мішка] новы запас, кулямёт пачынаў страляць так, што белапалякам і ў галаву не магло ўзбрысці сунуцца ў атаку.* Лынькоў. *Практыка паказала, што на акупіраванай зямлі пападзешся хутчэй, чым у самой Нямеччыне, дзе мала каму ўзбрыдзе ў галаву — і ў вагоне, і на вакзале — пацікавіцца іменна гэтымі двума.* Брыль. *Віктару нават узбрыло ў галаву падкалоць яго, папытаць, ці смачны французскі хлябец.* Лобан.

*УЗВАЛ1ЦЦА* ● **УЗВАЛІЦЦА НА ПЛЕЧЫ** *чые, каму. Зак. да* **ЗВАЛЬВАЦЦА НА ПЛЕЧЫ** *чые, каму.*

*УЗВАЛІЦЬ* ● **УЗВАЛІЦЬ НА ПЛЕЧЫ** *чые, каго што. Зак. да* **ЎЗВАЛЬВАЦЬ НА ПЛЕЧЫ** *чые, каго што.*

**УЗВАЛІЦЬ НА СВАЕ ПЛЕЧЫ** *што. Зак. да* **ЎЗВАЛЬВАЦЬ НА СВАЕ ПЛЕЧЫ** *што.*

**УЗВАЛІЦЬ САБЕ НА ПЛЕЧЫ** *што. Зак. да* **ЎЗВАЛЬВАЦЬ САБЕ НА ПЛЕЧЫ** *што.*

*УЗВАЛЬВАЦЬ* ● **УЗВ`АЛЬВАЦЬ (УСКЛ`АДВАЦЬ) НА ПЛ`ЕЧЫ** *чые, каго што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Абцяжарваць каго-н. якімі-н. абавязкамі, справай, клопатамі і пад. — *Паслухай, Наташачка, што я хацела папрасіць, — загаварыла [Хрысціна] і раптам падумала, што не варта, што нельга ўзвальваць на плечы гэтай паслужлівай дзяўчыны ўсю сваю гаспадарку.* Асіпенка. **УЗВАЛІЦЬ (УСКЛАСЦІ) НА ПЛЕЧЫ** *чые, каго што. Зак. [Бульба:] Калі ласка! Палюбуйцеся на яго! Лынды б'е, цянькі ацірае! Усё ўзваліў на жончыны плечы.* Махнач. *Лемжа.. доўга яшчэ красамоўнічаў аб вялікіх задачах, якія гісторыя і польскі народ усклалі на іх [паўстанцаў] плечы.* Хомчанка. *Вайна ўзваліла на плечы Вулькі вялікі клопат,* Шкраба.

**УЗВ`АЛЬВАЦЬ (УСКЛ`АДВАЦЬ) НА СВА`Е ПЛ`ЕЧЫ** *што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Свядома абцяжарваць сябе чым-н. **Сін**.: узвальваць сабе на плечы *што.* **Ант**.: збываць з рук (у 2 знач.); збыць з галавы *што*; звальваць з плячэй *што. І можна ўявіць, якія найвялікшыя абавязкі ўскладваў на свае плечы кожны камуніст.* Лынькоў. **УЗВАЛІЦЬ (УСКЛАСЦІ) НА СВАЕ ПЛЕЧЫ** *што. Зак. [Мікалай Сяргеевіч: ] Пасля рэвалюцыі Расію.. хто ўзваліў на свае плечы? Якія былі наркомы? Міністры? Ад трыццаці да сарака год!* Макаёнак. *Калі ён пісаў дысертацыю, яна ўсе хатнія клопаты ўзваліла на свае плечы.* Левановіч.

**УЗВ`АЛЬВАЦЬ (УСКЛ`АДВАЦЬ) САБ`Е НА ПЛ`ЕЧЫ** *што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Свядома абцяжарваць сябе чым-н. **Сін**.: узвальваць на свае плечы *што.* **Ант**.: збываць з рук (у 2 знач.); збыць з галавы *што*; звальваць з плячэй *што.* **УЗВАЛІЦЬ (УСКЛАСЦІ) САБЕ НА ПЛЕЧЫ** *што. Зак. Ці па яго сілах ноша, якую ўзваліў ён сабе на плечы? Няўжо яму трэба больш за ўсіх? Ды ці яго гэта ноша? Ён творчы чалавек...* Карпаў. *[Клімёнак] адчуў, што з гэтай хвіліны ўзваліў сабе на плечы вялікую адказнасць, пра якую нельга забываць.* Дамашэвіч. — *Так што дзейнічай. — Слухаю, — весела адказаў Корзун, не ўяўляючы ў той момант, якую работу ўзваліў сабе на плечы.* Шыцік.

*УЗВЕЙ* • **НА ЎЗВ`ЕЙ (Н`А ЎЗВ`І) В`ЕЦЕР.** *Акал. Разм.* Дарэмна, упустую, безвынікова (рабіць што-н.). **Сін**.: на вецер. *Калі так, дык увесь ваш план пайшоў на ўзвей вецер і драгуны могуць захапіць неспадзявана два другія атрады дружыннікаў.* Мурашка. *Сапраўды, вельмі шмат разоў даваў абяцанні на ўзвей вецер Жыльчык.* Пальчэўскі. *Пакуль нашы чаравікі не купілі, пакуль у іх не ходзяць на работу, у кіно, на танцы, значыць, мы працуем, як у народзе кажуць, на ўзвей вецер.* Левановіч. *Была і ў гміне, і ў павеце, у розных следчых і паноў і абхадзіла на ўзві вецер нямала панскіх устаноў.* Колас. *Цяпер на ўзві вецер ідзе людское слова.* Калюга.

**УЗВ`ЕЙ-В`ЕЦЕР.** *Мн. не ўжыв. Вык. ці зваротак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Легкадумны, пусты чалавек; ветрагон. **Сін**.: гуляй-вецер. — *Угаманіся ты, узвей-вецер! — адштурхнуў Злобіч дружбака.* Мік. Ткачоў. *[Тацццяна] спачатку не вельмі каб і гарнулася да яго — нейкі ж узвей-вецер быў Пецька Раманкевіч.* Гіль. *Сказаць па шчырасці, дужа цяжка часта прыходзілася мне... Адна дакументы на пенсію не можа аформіць, у другой сынок узвей-вецер...* Вышынскі.

*УЗВЕСЦІ* • **УЗВЕСЦІ Ў КВАДРАТ** *што. Зак. да* **ЎЗВОДЗІЦЬ У КВАДРАТ** *што.*

*УЗВЕСЦІСЯ* • **УЗВЕСЦІСЯ Ў КВАДРАТ.** *Зак. да* **ЎЗВОДЗІЦЦА Ў КВАДРАТ.**

*УЗВІ* • **НА ЎЗВІ ВЕЦЕР.** Гл. узвей.

*УЗВОДЗЕ* • **НА ЎЗВ`ОДЗЕ.** *Вык. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У стане ап'янення. **Сін**.: на брывах; на вушах; на падпітку; пад газам; пад градусам; пад мухай; пад хмяльком; пад чаркай; пад шафэ. *[Аксіння:] Ты сёння, старшыня, на ўзводзе, падпіўшы.* Макаёнак. — *Мы з Інай ужо крыху, як кажуць, на ўзводзе! — між іншым заўважыў ён [Анатоль].* Ваданосаў. *Марцін жа перад тым наведаўся к суседу, там выпіў як належыць, закусіў, ну і на ўзводзе быў, вядома.* Корбан.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, сукупнасці асоб ці абстр. прадмета. У стане ўзбуджэння, раздражнення. *Аддаючы ў рукі дзённік і сшыткі, Анжэла нешта буркнула няяснае і, як падалося, абразлівае. Элеанора, уся на ўзводзе, тут жа ледзь не выкрыкнула: — Што-што? Што ты сказала?* Гігевіч. *Зноў будзе ўвесь полк на ўзводзе і ў кодах Наташын стол, калі на палёт Валодзю яшчэ дадуць дазвол.* Ракаў. *Па ўсім відаць, нервы ў чалавека, што называецца, на ўзводзе. Некалькі ўзбуджана пачаў: — Колькі можна звяртацца да вас, каб стаць на чаргу?* «Звязда».

*УЗВОДЗІЦЦА* • **УЗВ`ОДЗІЦЦА Ў КВАДР`АТ.** *Незак. Функц. не зам. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Значна перабольшвацца. **УЗВЕСЦІСЯ Ў КВАДРАТ.** *Зак. Толькі ты тады, вядома, злуй на сябе: без заслуг застанешся. Перад немцамі. А там заслугі за табой падвояцца. У квадрат узвядуцца. Зразумеў?* Быкаў.

*УЗВОДЗІЦЬ* • **УЗВ`ОДЗІЦЬ У КВАДР`АТ** *што. Незак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Значна перабольшваць.

**Сін**.: згушчаць фарбы (у 3 знач.); рабіць з камара каня; рабіць з мухі слана. **УЗВЕСЦІ Ў КВАДРАТ** *што. Зак.*

*УЗГОРАЧКУ* • **СУПРАЦЬ ЛІХА НА ЎЗГОРАЧКУ.** Гл. ліха.

*УЗДОЎЖ* • **УЗДОЎЖ І ЎПОПЕРАК.** Гл. удоўж.

*УЗДРЫГНЕ* • **РУКА НЕ ЎЗДРЫГНЕ** *ў каго, чыя.* Гл. рука.

*УЗДЫХНУЦЬ* • **УЗДЫХН`УЦЬ В`ОЛЬНА (ВАЛЬН`ЕЙ; СВАБ`ОДНА, СВАБ`ОДНЕЙ).** *Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Адчуць палёгку, вызваліўшыся ад клопатаў, абавязкаў і пад. **Сін**.: дыхаць вольна; пабачыць свет; уздыхнуць на поўныя грудзі. *Ды сапраўды, куды там было да спакойнае пісаніны, калі нельга было вольна ўздыхнуць ад людзей, якія ўсё прасілі і пыталі.* Гартны. *[Людзі] за тысячу вёрст ад родных мясцін упершыню за апошні год уздыхнулі вольна, адчуўшы сябе як дома.*

Шахавец. *Радзіма толькі тады ўздыхне свабодна, калі на яе зямлі не застанецца ніводнага акупанта.* Новікаў. *Прыйшоўшы ў свае акопы, члены дэлегацыі вальней уздыхнулі.* Гурскі.

**УЗДЫХН`УЦЬ НА П`ОЎНЫЯ ГР`УДЗІ.** *Зак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Адчуць палёгку, вызваліўшыся ад клопатаў, абавязкаў і пад. **Сін**.: дыхаць вольна; пабачыць свет; уздыхнуць вольна. *Мы ўздыхнулі на поўныя грудзі. Вестка аб разгроме нямецкіх армій патроіла нашы сілы, і мы пачалі дзейнічаць яшчэ больш дзёрзка.* Карпюк. *Толькі за некалькі кварталаў ад таго страшнага дома Ядзя ўздыхнула на поўныя грудзі і праверыла, ці не цягнецца ззаду* «хвост». Новікаў. *Ух! Нарэшце можна ўздыхнуць на поўныя грудзі. Нічога сабе, прыемна пачынаецца яе адпачынак у родных пенатах.* М.Капыловіч.

*УЗДЫХУ* ● **ДА АПОШНЯГА ЎЗДЫХУ.** Гл. дыхання.

*УЗЛЕЗЬ* ● **Х`ОЦЬ <ТЫ> НА В`ОЎКА (ВАЎК`А) УЗЛ`ЕЗЬ (УСС`ЯДЗЬ, УЗБ`ІСЯ).** *Толькі ў заг. л. У безас. ужыв. Разм.* Зусім нічога не відаць з-за цемры. **Сін**.: хоць вока выкалі (у 3 знач.). **Ант**.: хоць <ты> іголкі збірай. *Покуль даехаў да Шайбакова — ноч нахапілася. Цёмна — хоць на воўка ўзлезь.* Адамчык. *Падлажылі мы гэткую самую цацку пад рэйку і ляжым. А цёмна — хоць ты на ваўка уссядзь.* Брыль. *Ноч цёмная, хоць на ваўка ўзбіся.* Далідовіч.

*УЗЛЯТАЦЬ* ● **ВЫСОКА ЎЗЛЯТАЦЬ.** *Зак. да* **ЛЯЦЕЦЬ ВЫСОКА.**

**УЗЛЯТ`АЦЬ У ПАВ`ЕТРА.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці адуш. прадмета. Разбурацца, падрывацца, гінуць ад узрыву. *Палыхалі будынкі штабоў, бензацыстэрны, узляталі ў паветра склады з боепрыпасамі.* Беразняк. **УЗЛЯЦЕЦЬ У ПАВЕТРА.** *Зак. Раптоўна прагучаў магутны выбух: гэта ўзляцела ў паветра некалькі секцый плаціны Днепрагэса.* Дамашэвіч. *Шмат яна [Кацярына] нечаканых сюрпрызаў падстроіла. Вось хоць бы, скажам, у Калінкавічах, нанялася ў камендатуру прыбіральшчыцай. А праз некалькі дзён камендант горада маёр фон Грабер узляцеў у паветра.* Гурскі.

*УЗЛЯЦЕЦЬ* ● **УЗЛЯЦЕЦЬ У ПАВЕТРА.** *Зак. да* **ЎЗЛЯТАЦЬ У ПАВЕТРА.**

*УЗНЕСЦІ* ● **УЗНЕСЦІ ДА НЯБЁС** *каго, што. Зак. да* **ЎЗНОСІЦЬ ДА НЯБЁС** *каго, што.*

*УЗНІМАЦЦА* ● **УЗНІМ`АЦЦА НА ВЫШЫН`Ю** *якую. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. зборн. ці абстр. прадмета. Дасягаць якога-н. узроўню дасканаласці. **УЗНЯЦЦА НА ВЫШЫНЮ** *якую. Зак. Краіна.. стала яшчэ багацейшая і прыгажэйшая, на нечуваную вышыню ўзнялася яе мірная слава.* «Звязда». *Народ наш увесь на*

*небывалую вышыню ўзняўся...* Кавалёў.

**УЗНІМ`АЦЦА НА НОГІ.** Гл. падымацца.

**УЗНІМАЦЦА НА ШЧЫТ.** Гл. падымацца.

*УЗНІМАЦЬ* ● **ВЫС`ОКА ЎЗНІМ`АЦЬ (УЗДЫМ`АЦЬ) СЦ`ЯГ** *чаго, чый. Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Пачынаць барацьбу за што-н., дзейнічаць у імя чаго-н. **ВЫСОКА ЎЗНЯЦЬ СЦЯГ** *чаго, чый. Зак. Народ высока ўзняў сцяг інтэрнацыяналізму, смела, рашуча выступіў супроць ганьбы нашых дзён — каланіяльнага рабства.* Карпаў. *Яны высока ўзнялі сцяг непакорнасці і нашай блізкай перамогі.* Купала. *Мой народ вышэй уздыме сцяг вялікага змагання.* Лынькоў.

**УЗНІМ`АЦЬ `АКЦЫІ** *чые, каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Павышаць ролю, значэнне каго-н., павялічваць шансы на поспех. *Звычайна са мною ідзе ў «хадакі» хто-небудзь з дзяўчат з нашага курса. «Хадакі» ідуць у якасці маральнай падтрымкі, яны ж і ўзнімаюць мае акцыі...* Васілевіч. **УЗНЯЦЬ АКЦЫІ** *чые, каго. Зак.*

**УЗНІМАЦЬ ВОЧЫ** *на каго, на што.* Гл. падымаць.

**УЗНІМАЦЬ ГАЛАВУ.** Гл. падымаць.

**УЗНІМАЦЬ ГОЛАС.** Гл. падымаць.

**УЗНІМАЦЬ ДА НЯБЁС** *каго, што.* Гл. узносіць.

**УЗНІМАЦЬ МЕЧ** *на каго, супраць каго.* Гл. падымаць.

**УЗНІМ`АЦЬ НА ВЫШЫН`Ю** *якую што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Даводзіць да якога-н. узроўню дасканаласці. **УЗНЯЦЬ НА ВЫШЫНЮ** *якую што. Зак. Аб чым бы ні пісаў М.Багдановіч, да якога б жанру літаратуры ён ні звяртаўся, яго пяром вадзіла шчырае жаданне ўзняць родную літаратуру на новую вышыню.* Шкраба. *Неабходна ўзняць на належную вышыню харавыя спевы.* «Маладосць».

**УЗНІМАЦЬ НА НОГІ.** Гл. падымаць.

**УЗНІМАЦЬ НА ШЧЫТ** *каго, што.* Гл. падымаць.

**УЗНІМАЦЬ РУКУ.** Гл. падымаць.

*УЗНОСІЦЬ* ● **УЗН`ОСІЦЬ (УЗНІМ`АЦЬ) ДА НЯБ`ЁС (ДА Н`ЕБА)** *каго, што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці зборн. прадмета. Празмерна расхвальваць каго-, што-н. **Сін.**: курыць фіміям *каму*; падымаць на шчыт *каго*; пець дыфірамбы *каму, чаму*; спяваць асанну *каму, чаму*; спяваць песні *каму. Крытык узносіў цябе да нябёс. І раптам... зусім не называе.* Вярцінскі. *Мы ўзносілі да неба нашых генералаў, камандуючых і маршалаў...* Навуменка. *Анатоль цягнуўся да кніг, захапляўся музыкай, паэзіяй, асабліва палюбіў Ясеніна, якога ў Разані моладзь*

*узносіла да нябёс.* Калеснік. *[Марына:] Вы ж усіх сваіх партызан да нябёс узнімаеце.* Шамякін. **УЗНЕСЦІ (УЗНЯЦЬ) ДА НЯБЁС (ДА НЕБА)** *каго, што. Зак.*

*УЗНЯЦЦА* ● **УЗНЯЦЦА НА ВЫШЫНЮ** *якую. Зак. да* **ЎЗНІМАЦЦА НА ВЫШЫНЮ** *якую.*

**УЗНЯЦЦА НА НОГІ.** *Зак. да* **ЎЗНІМАЦЦА НА НОГІ.**

**УЗНЯЦЦА НА ШЧЫТ.** *Зак. да* **ЎЗНІМАЦЦА НА ШЧЫТ.**

*УЗНЯЦЬ* ● **ВЫСОКА ЎЗНЯЦЬ СЦЯГ** *чаго, чый. Зак. да* **ВЫСОКА ЎЗНІМАЦЬ СЦЯГ** *чаго, чый.*

**УЗНЯЦЬ АКЦЫІ** *чые, каго. Зак. да* **ЎЗНІМАЦЬ АКЦЫІ** *чые, каго.*

**УЗНЯЦЬ ВОЧЫ** *на каго, на што. Зак. да* **ЎЗНІМАЦЬ ВОЧЫ** *на каго, на што.*

**УЗНЯЦЬ ГАЛАВУ.** *Зак. да* **ЎЗНІМАЦЬ ГАЛАВУ.**

**УЗНЯЦЬ ГОЛАС.** *Зак. да* **ЎЗНІМАЦЬ ГОЛАС.**

**УЗНЯЦЬ ДА НЯБЁС** *каго, што. Зак. да* **ЎЗНІМАЦЬ ДА НЯБЁС** *каго, што.*

**УЗНЯЦЬ МЕЧ** *на каго, супраць каго. Зак. да* **ЎЗНІМАЦЬ МЕЧ** *на каго, супраць каго.*

**УЗНЯЦЬ НА ВЫШЫНЮ** *якую што. Зак. да* **ЎЗНІМАЦЬ НА ВЫШЫНЮ** *якую што.*

**УЗНЯЦЬ НА НОГІ.** *Зак. да* **ЎЗНІМАЦЬ НА НОГІ.**

**УЗНЯЦЬ НА ШЧЫТ** *каго, што. Зак. да* **ЎЗНІМАЦЬ НА ШЧЫТ** *каго, што.*

**УЗНЯЦЬ РУКУ.** *Зак. да* **ЎЗНІМАЦЬ РУКУ.**

*УЗРОЎНІ* ● **НА ЎЗР`ОЎНІ** <u>*быць, трымацца*</u> і пад. *Вык. і акал. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. У стане задавоaverage самыя строгія патрабаванні. **Сін**.: на высокай хвалі; на вышыні. *[Галіна Паўлаўна — аглядае пакой:] А халупка нішто сабе. [Якавец:] На ўзроўні. Не адстаём ад веку.* Крапіва. *Дысцыпліна ў класе была далёка не на ўзроўні* Губарэвіч. *Я кажу пра тое, калі ўжо вам пашанцавала, дык трымайцеся на ўзроўні.* Асіпенка. — *Як у вас з каравульнай службай на перадавой?.. — На ўзроўні, — адказаў Ламко.* Шахавец.

*УЗЫХОДЗІЦЬ* ● **ЗОРКА ЎЗЫХОДЗІЦЬ** *чыя.* Гл. зорка.

**СОНЦА ЎЗЫХОДЗІЦЬ** *каму, для каго.* Гл. сонца.

*УЗЫХОДЗЯЧАЯ* ● **УЗЫХОДЗЯЧАЯ ЗОРКА** <*чаго, на чым*>. Гл. зорка.

*УЗЯЛА* ● **ВАША ЎЗЯЛА.** Гл. бярэ.

**ЧЫЯ ЎЗЯЛА.** Гл. чыя.

*УЗЯЛІСЯ* ● **ДЗЕ ЎЗЯЛІСЯ І НОГІ** *ў каго.* Гл. ногі.

*УЗЯЛО* ● **ІХ УЗЯЛО.** Гл. бярэ.

**МАЁ ЎЗЯЛО.** Гл. бярэ.

**НАША ЎЗЯЛО.** Гл. бярэ.

**ТВАЁ ЎЗЯЛО.** Гл. бярэ.

*УЗЯЎ* ● **ЧОРТ БЫ ЯГО ЎЗЯЎ!** Гл. чорт.

*УЗЯЦЦА* ● **УЗЯЦЦА ЗА ГАЛАВУ.** *Зак. да* **БРАЦЦА ЗА ГАЛАВУ.**

**УЗЯЦЦА ЗАГРУДКІ** *з кім.* **БРАЦЦА ЗАГРУДКІ** *з кім.*

**УЗЯЦЦА ЗА ГУЖ.** *Зак. да* **БРАЦЦА ЗА ГУЖ.**

**УЗЯЦЦА ЗА ЖЫВАТЫ.** *Зак. да* **БРАЦЦА ЗА ЖЫВАТЫ.**

**УЗЯЦЦА ЗА ПЯРО.** *Зак. да* **БРАЦЦА ЗА ПЯРО.**

**УЗЯЦЦА ЗА РОЗУМ.** *Зак. да* **БРАЦЦА ЗА РОЗУМ.**

**УЗЯЦЦА ЗА ЧУБЫ.** *Зак. да* **БРАЦЦА ЗА ЧУБЫ.**

**УЗЯЦЦА НА ЎЗБРАЕННЕ** *кім. Зак. да* **БРАЦЦА НА ЎЗБРАЕННЕ** *кім.*

**УЗЯЦЦА Ў СІЛУ.** *Зак. да* **БРАЦЦА Ў СІЛУ.**

*УЗЯЦЬ* ● **ЗА ЖЫВОЕ ЎЗЯЦЬ** *каго. Зак. да* **ЗА ЖЫВОЕ БРАЦЬ** *каго.*

**НІ ДАЦЬ НІ ЎЗЯЦЬ.** Гл. даць.

**НІ ЎЦЯЦЬ НІ ЎЗЯЦЬ.** Гл. уцяць.

**УЗЯЦЬ АГОНЬ НА СЯБЕ.** *Зак. да* **БРАЦЬ АГОНЬ НА СЯБЕ.**

**УЗЯЦЬ <БЛІЗКА> ДА СЭРЦА** *што. Зак. да* **БРАЦЬ <БЛІЗКА> ДА СЭРЦА** *што.*

**УЗЯЦЬ БОГА ЗА БАРАДУ.** *Зак. да* **БРАЦЬ БОГА ЗА БАРАДУ.**

**УЗЯЦЬ БЫКА ЗА РОГІ.** *Зак. да* **БРАЦЬ БЫКА ЗА РОГІ.**

**УЗЯЦЬ ВЕРХ.** *Зак. да* **БРАЦЬ ВЕРХ.**

**УЗЯЦЬ ГОЛЫМІ РУКАМІ.** *Зак. да* **БРАЦЬ ГОЛЫМІ РУКАМІ.**

**УЗЯЦЬ ГОРЛАМ.** *Зак. да* **БРАЦЬ ГОРЛАМ.**

**УЗЯЦЬ ГРЭХ НА <СВАЮ> ДУШУ.** *Зак. да* **БРАЦЬ ГРЭХ НА <СВАЮ> ДУШУ.**

**УЗЯЦЬ ДА ГАЛАВЫ** *што. Зак. да* **БРАЦЬ ДА ГАЛАВЫ** *што.*

**УЗЯЦЬ ЗА ГОРЛА** *каго. Зак. да* **БРАЦЬ ЗА ГОРЛА** *каго.*

**УЗЯЦЬ ЗА ДУШУ.** *Зак. да* **БРАЦЬ ЗА ДУШУ.**

**УЗЯЦЬ ЗА ЖАБРЫ** *каго. Зак. да* **БРАЦЬ ЗА ЖАБРЫ** *каго.*

**УЗЯЦЬ ЗА КАЎНЕР** *каго. Зак. да* **БРАЦЬ ЗА КАЎНЕР** *каго.*

**УЗЯЦЬ ЗА РУКУ** *каго. Зак. да* **БРАЦЬ ЗА РУКУ** *каго.*

**УЗЯЦЬ ЗА ШКІРКУ** *каго. Зак. да* **БРАЦЬ ЗА ШКІРКУ** *каго.*

**УЗЯЦЬ ЗА ШЧЭЛЕПЫ** *каго. Зак. да* **БРАЦЬ ЗА ШЧЭЛЕПЫ** *каго.*

**УЗЯЦЬ З БОЕМ** *што. Зак. да* **БРАЦЬ З БОЕМ** *што.*

**УЗЯЦЬ ЗМОРАМ.** *Зак. да* **БРАЦЬ ЗМОРАМ.**

**УЗЯЦЬ ЛЕЙЦЫ Ў <СВАЕ> РУКІ.** *Зак. да* **БРАЦЬ ЛЕЙЦЫ Ў <СВАЕ> РУКІ.**

**УЗЯЦЬ НА АБАРДАЖ** *каго, што. Зак. да* **БРАЦЬ НА АБАРДАЖ** *каго, што.*

**УЗЯЦЬ НА АРАПА** *каго. Зак. да* **БРАЦЬ НА АРАПА** *каго.*

**УЗЯЦЬ НА БОГА** *каго. Зак. да* **БРАЦЬ НА БОГА** *каго.*

**УЗЯЦЬ НА БУКСІР** *каго. Зак. да* **БРАЦЬ НА БУКСІР** *каго.*

**УЗЯЦЬ НА ВОКА** *каго, што. Зак. да* **БРАЦЬ НА ВОКА** *каго, што.*

**УЗЯЦЬ НА ВУДАЧКУ** *каго. Зак. да* **БРАЦЬ НА ВУДАЧКУ** *каго.*

**УЗЯЦЬ НА ЗАМЕТКУ** *каго, што. Зак. да* **БРАЦЬ НА ЗАМЕТКУ** *каго, што.*

**УЗ`ЯЦЬ НА З`УБ** *што, чаго. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Перакусіць, з'есці чаго-н. нямнога. **Сін**.: замарыць чарвяка; пражывіць душу. *[Агата:] Галодны ж ты, мусіць, а ў хаце хоць бы што на зуб узяць. Пайду хіба да суседкі, можа, бульбы пазычыць.* Крапіва. *Дубайцы былі галодныя і ў пустых хатах падымалі ўсё ўверх дном, шукаючы, што б можна было ўзяць на зуб.* Пташнікаў. *Як, гаспадар, знойдзецца тое-сёе ўзяць на зуб?* Радкевіч.

**2**. *Часта іран.* Пакаштаваць, паспытаць якую-н. яду. *Захопленыя бліскучай перспектывай узяць на зуб казляціны, усе трое забыліся і на час, які забараняў паляванне, і на варварскі спосаб — ганяць ноччу звера машынай з запаленымі фарамі.* «Вожык». *Бабуля, як ардынатар, тупала каля ўнука, угаворваючы ўзяць хоць на зуб што-небудзь з прысмакаў.* Стадольнік.

**УЗЯЦЬ НА ЗЫХЕР** *каго. Зак. да* **БРАЦЬ НА ЗЫХЕР** *каго.*

**УЗЯЦЬ НА КАРАНДАШ** *каго, што. Зак. да* **БРАЦЬ НА КАРАНДАШ** *каго, што.*

**УЗЯЦЬ НА МУШКУ** *каго, што. Зак. да* **БРАЦЬ НА МУШКУ** *каго, што.*

**УЗЯЦЬ НА ПОНТ** *каго. Зак. да* **БРАЦЬ НА ПОНТ** *каго.*

**УЗЯЦЬ НА ПРЫЦЭЛ** *каго, што. Зак. да* **БРАЦЬ НА ПРЫЦЭЛ** *каго, што.*

**УЗЯЦЬ НА ПУП.** *Зак. да* **БРАЦЬ НА ПУП.**

**УЗЯЦЬ НА ПУШКУ** *каго. Зак. да* **БРАЦЬ НА ПУШКУ** *каго.*

**УЗЯЦЬ НА РОЗУМ** *што. Зак. да* **БРАЦЬ НА РОЗУМ** *што.*

**УЗЯЦЬ НА СЯБЕ** *што. Зак. да* **БРАЦЬ НА СЯБЕ** *што.*

**УЗЯЦЬ НА ЎЗБРАЕННЕ** *што. Зак. да* **БРАЦЬ НА ЎЗБРАЕННЕ** *што.*

**УЗЯЦЬ НА ЎСЕ ЖЫЛЫ.** *Зак. да* **БРАЦЬ НА ЎСЕ ЖЫЛЫ.**

**УЗЯЦЬ НА ЦУГУНДАР** *каго. Зак. да* **БРАЦЬ НА ЦУГУНДАР** *каго.*

**УЗЯЦЬ НА ЯЗЫК** *каго. Зак. да* **БРАЦЬ НА ЯЗЫК** *каго.*

**<УЗЯЦЬ> НОГІ ЗА ПОЯС.** *Зак. да* **<БРАЦЬ> НОГІ ЗА ПОЯС.**

**<УЗЯЦЬ> НОГІ НА ПЛЕЧЫ.** *Зак. да* **<БРАЦЬ> НОГІ НА ПЛЕЧЫ.**

**<УЗЯЦЬ> НОГІ Ў РУКІ І.** *Зак. да* **<БРАЦЬ> НОГІ Ў РУКІ І.**

**УЗЯЦЬ ПАД АБСТРЭЛ** *каго, што. Зак. да* **БРАЦЬ ПАД АБСТРЭЛ**

*каго, што.*

**УЗЯЦЬ ПАД КАЗЫРОК.** *Зак. да* **БРАЦЬ ПАД КАЗЫРОК.**

**УЗЯЦЬ ПАД КРЫЛО** *каго, што. Зак. да* **БРАЦЬ ПАД КРЫЛО** *каго, што.*

**УЗЯЦЬ ПРЫКЛАД** *з каго. Зак. да* **БРАЦЬ ПРЫКЛАД** *з каго.*

**УЗЯЦЬ РОТ НА ЗАМОК.** *Зак. да* **БРАЦЬ РОТ НА ЗАМОК.**

**УЗЯЦЬ РУКУ** *каго, чыю. Зак. да* **БРАЦЬ РУКУ** *каго, чыю.*

**УЗЯЦЬ <САБЕ> У ГАЛАВУ** *што. Зак. да* **БРАЦЬ <САБЕ> У ГАЛАВУ** *што.*

**УЗ`ЯЦЬ <САБ`Е> У Т`ОЛК** *што. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зразумець, уясніць што-н. **Сін**.: браць на розум *што*; браць уцям *што. Уздыхнула цяжка маці, аб сынку гадае, што ў астрозе, ў паняверцы кару адбывае. І за што? У толк не возьме бедная кабета ні законаў гэтых мудрых, ні парадкаў свету.* Колас. *Па-мойму, зусім іначай малююцца здарэнні бягучага жыцця, і я... у толк сабе не вазьму чаму людзі таго не бачаць!* Гартны.

**УЗЯЦЬ <СВАЕ> ВОЧЫ Ў ЖМЕНЮ.** *Зак. да* **БРАЦЬ <СВАЕ> ВОЧЫ Ў ЖМЕНЮ.**

**УЗЯЦЬ <СВАЕ> СЛОВЫ НАЗАД.** *Зак. да* **БРАЦЬ <СВАЕ> СЛОВЫ НАЗАД.**

**УЗЯЦЬ СВАЁ.** *Зак. да* **БРАЦЬ СВАЁ.**

**УЗЯЦЬ СЛОВА.** *Зак. да* **БРАЦЬ СЛОВА.**

**УЗЯЦЬ СЯБЕ Ў РУКІ.** *Зак. да* **БРАЦЬ СЯБЕ Ў РУКІ.**

**УЗЯЦЬ У АБАРОТ** *каго. Зак. да* **БРАЦЬ У АБАРОТ** *каго.*

**УЗЯЦЬ У ГУБУ.** *Зак. да* **БРАЦЬ У ГУБУ.**

**УЗЯЦЬ У ПАЛОН** *каго. Зак. да* **БРАЦЬ У ПАЛОН** *каго.*

**УЗЯЦЬ У ПЕРАПЛЁТ** *каго. Зак. да* **БРАЦЬ У ПЕРАПЛЁТ** *каго.*

**УЗЯЦЬ У РАБОТУ** *каго. Зак. да* **БРАЦЬ У РАБОТУ** *каго.*

**УЗЯЦЬ У <СВАЕ> РУКІ.** *Зак. да* **БРАЦЬ У <СВАЕ> РУКІ.**

**УЗЯЦЬ УЦЯМ** *што. Зак. да* **БРАЦЬ УЦЯМ** *што.*

**УЗЯЦЬ У ШОРЫ** *каго. Зак. да* **БРАЦЬ У ШОРЫ** *каго.*

**УЗЯЦЬ У ШУХ.** *Зак. да* **БРАЦЬ У ШУХ.**

*УКАЗ* ● **НЕ ЎК`АЗ** *каму. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Не можа быць аўтарытэтам, падставай, указаннем у чым-н. *А ты мне не ўказ! Не камандзір, значыць, каб указваць.* Быкаў. *А што Міцька? Хай так жыве, як свая галава шурупіць. Калі бацька яму не ўказ.* Карамазаў. *— Вам што, таварыш Салавейчык, міністэрства не ўказ? — дранцвеў голас у трубцы.* Блакіт. *[Вецік] зноў успомніў, што вольны чалавек, што цяпер ніхто і нішто яму не ўказ.* А.Жук.

*УКАЗАЦЬ* ● **Д`УХУ НЕ ЎКАЗ`АЦЬ.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са

знач. асобы. Тут жа, адразу памерці. **Сін**.: аддаваць богу душу; аддаваць канцы (у 3 знач.); аддаць духі; адкідваць капыты (у 3 знач.); адкідваць хвост (у 2 знач.); адпраўляцца да абрама на піва; адпраўляцца на той свет; адыходзіць з гэтага свету; адыходзіць на той свет; адыходзіць у вечнасць (у 3 знач.); адыходзіць у іншы свет; адыходзіць у лепшы свет; ажаніцца з <сырою> зямлёй; выпростваць ногі; выцягнуць ногі; даваць дуба; дух выпусціць (у 3 знач.); дух спускаць; загавець душой; загадаць доўга жыць <*каму*> (у 3 знач.); задзіраць капыты (у 2 знач.); задзіраць ногі; замуж за <пана> пясоцкага; заснуць вечным сном; заснуць навекі; згарнуць рукі; з капылоў далоў (у 2 знач.); канькі адкідаць; лажыцца ў магілу; на паповы сані збірацца; пайсці ў магілу; пачыць у бозе; складваць рукі (у 2 знач.); сыходзіць са сцэны (у 4 знач.); трапіць да абрама на піва. *Бушмар як стаяў, кінуўся наперад і грунуў кулакамі паручніку ў грудзі. Той адно звіўся Бушмару пад ногі і духу не ўказаў.* Чорны. *[Цімок:] Падпільнуйце яго дзе-небудзь каля лесу ды жалязякай якой стукніце па патыліцы. Духу не ўкажа.* Лобан.

*УКАПАНЫ* ● **ЯК УКАПАНЫ.** Гл. укопаны.

*УКАРАЦІЦЬ* ● **УКАРАЦ`ІЦЬ (ПАДКАРАЦ`ІЦЬ, ПАДРЭЗ`АЦЬ) ЯЗ`ЫК** *каму. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымусіць каго-н. замоўкнуць, менш гаварыць лішняе. **Сін**.: забіваць дух *каму*; закрываць рот *каму*; замазаць рот *каму*; затыкаць горла *каму, каго* (у 3 знач.); затыкаць рот *каму*; павесіць замок на рот *каму*; язык завязаць *каму. — Ты не хвалюйся! Збяром сёння ў клубе людзей, каму трэба — укароцім языкі, — сказаў старшыня.* Ваданосаў. *Мужчына такі, што не можа жонцы язык падкараціць.* Мысл івец. *Калі я пра гэта сказала на сходзе, то сакратар з раёна — падумайце — сказаў, што мне трэба язык падрэзаць. За што?* Пестрак.

*УКІНУЎШЫ* ● **ЯК АПОШНЯЕ Ў ПЕЧ УКІНУЎШЫ.** Гл. усыпаўшы.

*УК`ІНУЦЬ* ● **УКІНУЦЬ АГНЮ Ў ХАТУ.** Гл. падкінуць.

**УКІНУЦЬ КАТ`А Ў Х`АТУ** *чыю, каму. Зак. Разм. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выклікаць сварку, пасварыць каго-н. (часцей мужа з жонкай). **Сін**.: падкінуць агню ў хату. — *Удваіх шпацыруеце? — усміхнуўся [Тамаш], выскаліў буйныя здаровыя зубы. — Падкажу Уладаку — укіну ката ў хату... — Ты сам пра таго ката думай... — адказала яму Антаніна. — Бо ў тваю хату скарэй яго ўкінуць.* Далідовіч.

*УКЛАД* ● **УНОСІЦЬ СВОЙ УКЛАД** *у што.* Гл. уносіць.

*УКЛАДАЦЬ* ● **УКЛАДАЦЬ ДУШУ** *ў што.* Гл. укладваць.

**УКЛАДАЦЬ У ВУСНЫ** *каго, чые, каму што.* Гл. укладваць.

**УКЛАДАЦЬ У ВУШЫ** *каму, чые што.* Гл. уводзіць.

**УКЛАДАЦЬ У ГАЛАВУ** *каму што.* Гл. укладваць.

**УКЛАД`АЦЬ (УКЛ`АДВАЦЬ) У ПРАКР`УСТАВА Л`ОЖА** *чаго. Незак. Кніжн. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Насільна прыстасоўваць да чаго-н., падганяць да пэўнай меркі. *Яно, вядома, спакусліва — будаваць свет па ідэальнай Схеме: «вытыкаецца» што — прэч яго! Укладваць жывое жыццё ў пракруства ложа догмы! Такая «творчасць» душу не надарве...* Адамовіч. **УКЛАСЦІ (УЛАЖЫЦЬ) У ПРАКРУСТАВА ЛОЖА** *чаго. Зак. Гэта не асаблівасць якой-небудзь мясцовай гаворкі, а рыса, уласцівая ўсёй агульнанароднай мове — пісьмовай і вуснай. Яе нельга ні ігнараваць, ні ўкласці ў пракруства ложа граматыкі.* Крапіва.

*УКЛАДВАЕЦЦА* ● **НЕ ЎКЛ`АДВАЕЦЦА (НЕ М`ЕСЦІЦЦА, НЕ Т`ОЎПІЦЦА) У ГАЛАВ`Е** *чыёй, у каго. Незак. Цяп. і пр. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Успрымаецца як тое, з чым нельга згадзіцца, чаго нельга зразумець, усвядоміць. *Яна абазвала яго здраднікам і, не спытаўшыся, пайшла ў партызаны... Як ацаніць гэты яе ўчынак? У яго ён не ўкладвайся ў галаве.* Дамашэвіч. *Яшчэ ніяк не ўкладвалася ў маёй галаве, што я ўжо жанаты чалавек.* Сабаленка. *[Бураўчык:] А як жа вы? Інжынер, спецыяліст, сам, па ўласнай волі. У галаве не месціцца...* Маўзон. *Усё, што здарылася за гэтую ноч і палову дня, не месцілася ў галаве.* Ваданосаў. *Грошай раптам будзе столькі, што і ў галаве не тоўпіцца.* Брыль.

*УКЛАДВАЦЦА* ● **УКЛ`АДВАЦЦА Ў В`УСНЫ** *каго, чые, каму. Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн., выраж. наз. *слова, радок* і пад. Выказвацца, вымаўляцца па чыёй-н. волі. *У вусны аднаго з герояў укладваюцца радкі, якія можна лічыць і прызнаннем вялікай адказнасці задачы, і асуджэннем схематызму, наіўнага патрыятызму ў канструяванні канфліктаў і дыялогаў.* Гіст. бел. сав. літ.

**УКЛ`АДВАЦЦА Ў ПРАКР`УСТАВА Л`ОЖА**. *Незак. Кніжн. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Насільна прыстасоўвацца да чаго-н., падганяцца да пэўнай меркі. *Паслухалі. Бокам цяпер выходзяць іх хуткаспелыя схемы, жыццё не хоча ўкладвацца ў іх пракруства ложа. Спахапіліся, але адрэзаную лусту не прылепіш, ліквідаваць працей, чым аднавіць.* Блакіт. *Проза Анатоля Казлова не ўкладваецца ў пракруства ложа звычных ідэйных модуляў.* Л.Галубовіч. *Бюфон некалі сказаў: стыль – гэта чалавек. Але, чытаючы твае творы, цяжка вызначыць, сфармуляваць твой стыль.*

*Ён не ўкладваецца ў пракрустава ложа навуковых дэфініцый.* Прыгодзіч.

*УКЛАДВАЦЬ* ● **УКЛ`АДВАЦЬ (УКЛАД`АЦЬ) ДУШ`У** *ў што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Поўнасцю аддавацца чаму-н., усе сілы, здольнасці накіроўваць на што-н. **Сін**.: класці душу *ў што. Рамеснік можа быць велічным мастаком, калі ён ўкладвае душу ў гэту справу. І мастак можа быць рамеснікам, калі ён душы не ўкладвае.* «Звязда». *[Луцэвіч:] Я душу ў гэтую зямлю ўкладаў, я жылы з сябе цягнуў, а шчасця няма...* Вітка. **УКЛАСЦІ (УЛАЖЫЦЬ) ДУШУ** *ў што. Зак. А я думаю так: уклалі людзі душу ў работу — усё расло ў ахвоту, за добрую працу — плата добрая.* Бялевіч. *Замнога я ўлажыў душы ў гэты горад, каб аддаць яго табе на абрабаванне.* Шамякін.

**УКЛ`АДВАЦЬ (УКЛАД`АЦЬ) У В`УСНЫ** *каго, чые, каму што. Незак. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымушаць каго-н. гаварыць, выказваць што-н. *У рамане «Ідзі, ідзі» пісьменнік ўкладвае ў вусны Галены, новага чалавека, расказ аб яе радаслоўнай.* Перкін. *Колас укладае ў вусны гераіні ленінскія словы амаль дакладна.* Лужанін. **УКЛАСЦІ Ў ВУСНЫ** *каго, чые, каму што. Зак. Слова, якое яму ўклаў у вусны аўтар, не варта яго самога.* Чорны.

**УКЛ`АДВАЦЬ (УКЛАД`АЦЬ) У ГАЛАВ`У** *каму што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Прымушаць каго-н. засвоіць, запомніць што-н. **Сін**.: убіваць у галаву *каму што* (у 3 знач.). *Гэтыя экзамены ўжо каторы год пасля заканчэння інстытута сняцца... Дзе ты ўсё запомніш, што табе пяць год у галаву ўкладалі?..* Гігевіч. **УКЛАСЦІ У ГАЛАВУ** *каму што. Зак.*

**2**. Настойліва ўнушаць што-н., пераконваць у чым-н. **Сін**.: дзяўбці ў галаву *каму, чыю*; капаць на мазгі *каму*; убіваць у галаву *каму што* (у 2 знач.); уводзіць у вушы *каму што* (у 2 знач.). **УКЛАСЦІ Ў ГАЛАВУ** *каму што. Зак. Садніла іншае — усе вакол ужо лічаць яго [Кунцэвіча] старшынёю аб'яднанага калгаса. Хто-хто, а ён добра ведае: калі аб'яднаюць — яго старшынская песенька спета. Але як гэта ўкласці ў галовы ўсім навокал?* Блакіт.

**УКЛАДВАЦЬ У ПРАКРУСТАВА ЛОЖА** *чаго.* Гл. укладаць.

*УКЛАСЦІ* ● **УКЛАСЦІ ДУШУ** *ў што. Зак.* да **ЎКЛАДВАЦЬ ДУШУ** *ў што.*

**УКЛАСЦІ Ў ВУСНЫ** *каго, чые, каму што. Зак.* да **ЎКЛАДВАЦЬ Ў ВУСНЫ** *каго, чые, каму што.*

**УКЛАСЦІ Ў ВУШЫ** *каму, чые што.* Гл. уводзіць.

**УКЛАСЦІ Ў ГАЛАВУ** *каму што. Зак.* да **ЎКЛАДВАЦЬ Ў ГАЛАВУ**

*каму што.*

**УКЛАСЦІ Ў ПРАКРУСТАВА ЛОЖА** *чаго. Зак. да* **ЎКЛАДВАЦЬ Ў ПРАКРУСТАВА ЛОЖА** *чаго.*

*УКОПАНЫ* ● **ЯК УК`ОПАНЫ (УКАП`АНЫ, -АЯ, -АЕ, -ЫЯ).** *Акал. Разм.* Нерухома, перастаўшы рухацца, замёршы на месцы (стаць, стаяць, спыніцца, сядзець і пад.). **Сін**.: як свечка (у 2 знач.). *Стаяў [Мікіта] як укопаны, каб не варухнуць нагою, каб не абсыпаць з ботаў на падлогу падсохшую гразь.* Галавач. *Чацвёрка коней стала як укопаная перад кругам сялян.* Лыںькоў. *Падарожнікі на хвіліну спыніліся як укопаныя, не ведаючы, што думаць і рабіць.* Маўр. *Папок сядзеў на мяхах як укопаны, закрываючы рукою рот, — відаць, кашляў, але яго не было чуваць.* Пташнікаў. *[Грышка] стаіць як укапаны; грудзі стынуць, рукі вянуць, у вачах і гнеў, і страх.* А.Александровіч.

*УКРАДЗЕ* ● **З-ПАД С`УЧКІ ЯЙЦ`О (`ЯЙКА) УКРАДЗ`Е.** *У ролі прэдык. Азн. Разм. Часцей іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі хітры, пранырлівы, здольны зрабіць нечаканае ці, здавалася б, немагчымае. **Сін**.: ад яйка адліць; падшыты лісіцай. *Гэта ж такі шарахвост — ён жа табе з-пад сучкі яйцо ўкрадзе.* Крапіва. *— Вельмі ж ты ўжо справядлівы, Андрушка. Усе вы, Шэметы, гэтакія. — Не бойся, не ўсе, — запярэчыў Мацвей. — Лукаш табе з-пад сучкі яйцо ўкрадзе.* Лобан. *—Знаеце, Міхайлавіч, вы во гэтага, рыжага, з сабою бярыце. Ён і з-пад сучкі яйка ўкрадзе, не тое што матэрыялы дастане на базах... — падаў Валодзю думку Толя.* А.Жук.

*УКРАЎ* ● **У Б`ОГА ЦЯЛ`Я (ЦЯЛ`ЯТКА) УКР`АЎ (З'`ЕЎ).** *Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Горшы за іншых, правінаваціўся ў чым-н. **Ант**.: не левай нагой смаркацца; не лыкам шыты; самі з вусамі. *[Міхась:] Запішы мяне ў Чырвоную гвардыю! [Гузыр:] І мяне пішы! [Дроб:] А я што? Цяля ў бога ўкраў? Пішы, брат, і я з вамі!* Колас. *Я не ківаю на Пятра, я толькі гавару, што і мы не ў бога цялятка ўкралі...* Брыль. *Зусім жа інакш жывуць людзі там, дзе бяруць пачатак і куды збягаюць рэкі. А яны [княжаборцы] як у бога цяля ўкралі. Яшчэ год-другі, і змые паводка іх хаты, сплыве веснай вадой іх вёска, іх жыццё.* Казько. *Дарма злуяцеся, ваша міласць. Тут вінаватых няма. І вы ні ў чым не вінаватыя, і я ў бога цяля не з'еў.* «Вожык».

*УКРЫШЫЦЬ* ● **НІ ЦЫБУЛЬКІ НІ ЎКРЫШЫЦЬ <У ШТО>.** Гл. цыбулькі.

*УКУСІЛА* ● **ШАЛЁНАЯ МУХА ЎКУСІЛА <ЗА ВУХА>** *каго.* Гл. муха.

**ЯКАЯ МУХА ЎКУСІЛА** *каго.* Гл. муха.

*УКУСІЦЬ* ● **СВАЯ ВОШ УКУСІЦЬ** *каго.* Гл. вош.

**УКУСІЦЬ СЯБЕ ЗА ЛОКАЦЬ.** *Зак. да* **КУСАЦЬ СЯБЕ ЗА ЛОКАЦЬ.**

*УЛАДАЙ* ● **ПАД УЛ`АДАЙ** *чаго. Вык. ці акал. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пад уздзеяннем, пад уплывам, пад уражаннем чаго-н. (быць, аказацца і пад.). **Сін**.: ва ўладзе *чаго. Пад уладай моцнага пачуцця, што нахлынула знянацку, Богша шчыра верыў, што так яно і будзе, што яны з Любай абавязкова паклапоцяцца пра адзінокага старога.* Асіпенка.

*УЛАДЗЕ* ● Быць, аказацца і пад. **ВА ЎЛ`АДЗЕ** *чаго. Часцей у знач. вык. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пад уздзеяннем, пад уплывам, пад уражаннем чаго-н. **Сін**.: пад уладай *чаго. [Люба] сядзіць за сталом, над недапісанай паперкай, задуменная, ва ўладзе сумных успамінаў.* Мележ. *Прыёму яшчэ не было, і, чакаючы яго, кожны быў ва ўладзе сваіх клопатаў і настрою.* Кудраўцаў. *Я ўвесь ва ўладзе таго перадсмяротнага ліста.* Ліпскі.

*УЛАЖЫЦЬ* ● **УЛАЖЫЦЬ ДУШУ** *ў што. Зак. да* **ЎКЛАДВАЦЬ ДУШУ** *ў што.*

**УЛАЖЫЦЬ У ПРАКРУСТАВА ЛОЖА** *чаго. Зак.* **ЎКЛАДАЦЬ У ПРАКРУСТАВА ЛОЖА** *чаго.*

*УЛАЗІЦЬ* ● **УЛАЗІЦЬ У ДАВЕР'Е** *да каго, каму, к каму.* Гл. уваходзіць.

**УЛ`АЗІЦЬ У СК`УРУ** *чыю. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Уяўляць сябе ў становішчы каго-н. **Сін**.: ставіць сябе на месца *чыё, каго. Табе па волі аўтара прыходзіцца думаць за лесавіка, адчуваць за лесавіка, трывожыцца і перажываць не разам з ім, а за яго, быць ім, улазіць у яго скуру.* «ЛіМ». **УЛЕЗЦІ Ў СКУРУ** *чыю. Адпусціце тав. Кэмрада на пару дзён сустрэць на мяжы т. Харужую, якая праседзела 7 гадоў у польскай турме. Яны блізкія таварышы... Трэба ж у іх скуру ўлезці.* Лужанін. *А калі б яму ўлезці ў маю скуру? Год пасля дзесяцігодкі ў пясчаным кар'еры, з рыдлёўкай. Мазалі лопаюцца, боль у паясніцы, нібы на спіну самазвал узʼехаў. Вытрымаў усё.* Дзятлаў. *Вядома, кожны чалавек, калі захоча, можа паставіць сябе на месца Любы Дворкінай, улезці, так сказаць, у яе скуру.* Кажадуб.

*УЛАСНА* ● **УЛАСНА КАЖУЧЫ.** Гл. кажучы.

*УЛАСНАГА* ● **БАЯЦЦА ЎЛАСНАГА ЦЕНЮ.** Гл. баяцца.

*УЛАСНАЙ* ● **ЗАМЫКАННЕ ВА ЎЛАСНАЙ ШКАРЛУПЕ.** Гл. замыканне.

**УЛАСНАЙ ПЕРСОНАЙ.** Гл. персонай.

*УЛАСНЫМ* ● **ВАРЫЦЦА ВА ЎЛАСНЫМ САКУ.** Гл. варыцца.

**УЛАСНЫМ МАЗАЛЁМ.** Гл. мазалём.

*УЛАСНЫМІ* ● **УЛАСНЫМІ ВАЧАМІ.** Гл. вачамі.

**УЛАСНЫМІ ВУШАМІ.** Гл. вушамі.

*УЛАСНЫХ* ● **ВА ЎЛАСНЫХ ВАЧАХ.** Гл. вачах.

*УЛАСНЫЯ* ● **НА СВАЕ <УЛАСНЫЯ> ВОЧЫ.** Гл. вочы.

**НА ЎЛАСНЫЯ ВОЧЫ.** Гл. вочы.

*УЛЕЗЕ* ● **К`ОЛЬКІ ЎЛ`ЕЗЕ.** *Акал. Разм.* **1**. Уволю, удосталь, без усякага абмежавання (гуляць, гаварыць і пад.). **Сін**.: ад пуза (у 3 знач.); да адвалу; еш не хачу *чаго*; за трох дурных; колькі душа жадае; на поўную губу (у 3 знач.); на ўсю губу; не ў свой дух; хоць жывот расперажы; хоць расперажыся; як дурны на памінках; як на дзяды (у 3 знач.); як не ў сябе; як у прорву. *[Наталля:] Вось да дзеда паедзем. Там будзеш купацца колькі ўлезе.* Мурашка. *Толькі каб нядоўга. Мама пачне сварыцца: экзамены, маўляў, на носе, а яна гуляе — колькі ўлезе.* Савіцкі.

**2**. Вельмі многа (браць, набраць і пад.). **Сін**.: адбою няма *ад каго* (у 3 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 3 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вышэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 3 знач.); да масквы ракам не перараставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі хочаш (у 3 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 3 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 3 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. [Міхаіл:] Для такой справы мінімум не падыходзіць. Занадта мала яго. [Лявон:] Хто колькі можа. [Максім:] А браць — колькі ўлезе?* Макаёнак. *Набралі хлопцы рыбы колькі ўлезе і накіраваліся дадому.* Маўр.

*УЛЕЗЦІ* ● **УЛЕЗЦІ Ў ГАЛАВУ** *каму. Зак. да* **ЛЕЗЦІ Ў ГАЛАВУ** *каму.*

**УЛЕЗЦІ Ў ДАВЕР'Е** *да каго, каму, к каму. Зак. да* **ЎЛАЗІЦЬ У ДАВЕР'Е** *да каго, каму, к каму.*

**УЛЕЗЦІ Ў ДУШУ** *чыю, каго, каму. Зак. да* **ЛЕЗЦІ Ў ДУШУ** *чыю, каго, каму.*

**УЛЕЗЦІ Ў НЕРАТ <НІ ЎЗАД НІ ЎПЕРАД>.** Гл. папасціся.

**УЛЕЗЦІ Ў СКУРУ** *чыю. Зак. да* **ЎЛАЗІЦЬ У СКУРУ** *чыю.*

*УЛІВАЦЬ* ● **УЛІВ`АЦЬ У СТАР`ЫЯ МЯХ`І Н`ОВАЕ ВІН`О.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Запаўняць новым зместам старую форму. **УЛІЦЬ У СТАРЫЯ МЯХІ НОВАЕ ВІНО.** *Зак. Якраз на купалле быў запланаваны абласны семінар творчай моладзі і абласное свята паэзіі. Вось яна — магчымасць узнавіць народныя традыцыі, уліць у старыя мяхі новае віно.* «Маладосць». *Найбольш характэрным недахопам многіх вершаў надзённай тэматыкі крытык лічыць «жаданне ўліць новае віно ў старыя мяхі».* «ЛіМ».

*УЛІПНУЦЬ* ● **УЛ`ІПНУЦЬ У ГІСТ`ОРЫЮ.** *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры <дзейн. са знач. асобы. Аказацца ўблытаным у якую-н. непрыемную справу. *І калі не хочаш. у якую-небудзь гісторыю ўліпнуць, кінь баламуціць. А то дастанеш, будзе табе справядлівасць...* Карпаў. *Ну і ўліп у гісторыю, што нікому не расказвай.* Карпюк. *[Міхайлаў:] Пачакайце! Якая ж вы, аднак! Гэта вечная жаночая легкадумнасць... Самі ўліплі ў гісторыю і цягнеце ў яе другіх.* Васілеўскі. *Нават жыхары павыходзілі з крайніх хат, глядзяць, хто птушак патрывожыў? – Так можна ў гісторыю ўліпнуць, як гусятнік Панякоўскі, – кажа Анатоль.* Пашкоў.

*УЛІТЫ* ● **ЯК УЛ`ІТЫ.** *Часцей вык. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн., які абазначае назвы адзення. Якраз па фігуры. *Мундзір дагнаны як уліты, а кепка ссунута набок.* Колас. *[Андрэй:] Ён [касцюм] мне не патрэбен болей. [Роза:] Дык ён жа на табе як уліты ўсё роўна.* Козел. *Камбінезон на ёй сядзеў як уліты, і ўся яна была зграбная, лёгкая і ладная.* Грахоўскі.

*УЛІЦЬ* ● **УЛІЦЬ У СТАРЫЯ МЯХІ НОВАЕ ВІНО.** *Зак. да* **ЎЛІВАЦЬ У СТАРЫЯ МЯХІ НОВАЕ ВІНО.**

*УЛОННЕ* ● **НА ЎЛ`ОННЕ ПРЫР`ОДЫ.** *Акал. Функц. не зам.* За горад, у лес, у поле і пад. (ехаць, выязджаць і пад.). *З зялёных запыленых вагонаў выходзілі дачнікі, грыбнікі, рыбаловы і проста ўсе, хто ў гэты нядзельны дзень выязджаў на ўлонне прыроды.* Навуменка. *[Патапенка] шкадаваў, што сарвалася паездка на ўлонне прыроды, дзе можна было павесяліцца, адпачыць, адкараскацца ад усіх апрыкралых службовых клопатаў.* Хомчанка.

*УЛОННІ* ● **НА ЎЛ`ОННІ ПРЫР`ОДЫ.** *Акал. Функц. не зам.* Па-за горадам, у лесе, у полі і пад. (быць, адпачываць і пад.). *Жыццё ў будцы было цікавае яшчэ і тым, што праходзіла яно на ўлонні прыроды.* Шкраба. *Пасля нарады Жыхараў з сябрамі паехаў на Нарач. Хацелі адпачыць на ўлонні прыроды.* Гроднеў.

*УЛЮБЁНАГА* ● **САДЗІЦЦА НА СВАЙГО <УЛЮБЁНАГА> КАНЬКА.** Гл. садзіцца.

*УЛЯПІЎ* ● **ЯК У С`УК УЛЯП`ІЎ (-ЛА, -ЛІ).** *Зак. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Сказаў вельмі дарэчы. **Сін**.: пападаць у цэль; пацэліць у дзесятку; пацэліць у <самы> яблычак. **Ант**.: не туды гнуць (у 2 знач.); пападаць пальцам у неба. *[Шунейка:] Майстар не грыб — у лесе не знойдзеш. [Скрылёў:] Гэта ты, Вася, як у сук уляпіў.* Кобец. — *Вой, дык гэта ж нехта як у сук уляпіў, калі назваў цябе інтэлектуалам! — зноў зарагатаў Захар Пратасеня.* Васілёнак. *Раскарчоўваў-раскарчоўваў паляны ўвесь свой век — і дзе яны? Дзе? Косцік хоць і смаркач, а як у сук уляпіў. Не разбярэш цяпер, дзе поле маё, а дзе — чужое.* Сачанка. *[Трэці калгаснік:] Вот возьмем Самасеева. Як рэкамендавалі, што гаварылі? [Сенька-заіка:] У-ст-тойлівы і па-аваротлівы... Што ўстойлівы — няпраўда. А што па-а-варотлівы, дык як у сук уляпілі.* Макаёнак.

*УЛЯТАЕ* ● **У АДН`О В`УХА ЎЛЯТ`АЕ (УВАХ`ОДЗІЦЬ) <А> У ДРУГ`ОЕ (З ДРУГ`ОГА) ВЫЛЯТ`АЕ (ВЫХ`ОДЗІЦЬ)** *<у каго, каму>. Незак. Разм. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Імгненна і бясследна забываецца, не застаецца ў памяці. **Сін**.: вылятаць з галавы *<у каго>*; выпадаць з галавы *<у каго>*; выходзіць з галавы *<у каго>*; сыходзіць з памяці *каму*. *Вы ж самі казалі, што вашы словы ў адно вуха ўлятаюць, а ў другое вылятаюць.* «Настаўн. газ.» *[Мялешка] чамусьці ставіўся да ўсяго, як нядбайны турыст, у якога расказанае ў адно вуха ўлятае, а з другога вылятае.* Асіпенка. — *Людзі прывыклі слухаць, прывыклі спажываць гатовае. — А што ты думаеш. Мы ўжо так прывыклі да гэтых галасоў, што ў адно вуха ўляціць, з другога вылятае.* Цяжкі. *Крываногі Саша — не Мішка Бычок. Ён не прачытаў ніводнай кнігі, і тое, што яму ў адно вуха ўваходзіла, з другога зараз жа вылятала.* Навуменка. *Трэба паслаць [на нараду] Андрэя Пятровіча, ён любіць ездзіць, хоць карысці ад яго ніякай. У адно вуха ўвайшло, а ў другое выйшла.* Гурскі. *Перадаюць па радыё песню — мне яна так: у адно вуха ўвайшла, а ў другое выйшла.* Ракітны.

*УМАЛОТУ* ● **НІ СПОРУ НІ ЎМАЛОТУ.** Гл. спору.

*УМЫВАННЕ* ● **УМЫВ`АННЕ Р`УК.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* Адмаўленне ад удзелу ў чым-н. ці ўхіленне ад адказнасці. *А можа, усе гэтыя разважанні – такая, больш-менш зручная, форма ўмывання рук.* Брыль.

*УМЫВАЦЦА* ● **УМЫВ`АЦЦА КР`ОЎЮ (КРЫВ`ЁЙ).** *Незак. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Знемагаць ад страты крыві пасля

раненне ці пабояў. **Сін**.: abліваццa кроўю (у 3 знач.). *[Варвара Цімохаўна:] Тады яны ператрэслі ўсю хату і зноў да Волькі і да мяне падступіліся. Аб'юшылі нас, мы крывёю ўмываемся, але маўчым.* Шлег. **УМЫЦЦА КРОЎЮ (КРЫВЁЙ).** *Зак. І не помніць [Ганна] добра цяпер, як з усёй сілы хлыснула жандара па мордзе. Кроўю ён умыўся.* Нікановіч. *А Толя — і праўда салага. Рашыў, мусіць, героем сябе паказаць — пачаў прадаваць зубы, ну дык і ўмыўся крывёю.* Кандрусевіч.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці зборн. прадмета. Ваяваць, змагацца ў цяжкіх баях з ворагам. **Сін**.: абліваццa кроўю (у 2 знач.). *На беларускай зямлі неаднойчы разыгрываліся крывавыя драмы, і, зразумела, нашаму брату нямала пападала. Не раз крывёю ўмываўся.* Гурскі. **УМЫЦЦА КРОЎЮ (КРЫВЁЙ).** *Зак. Толькі не лянуйся, усё будзе: школы пабудуем, зрэбнікі скінем, зажывём, як людзі. А пакуль што яшчэ не раз крывёю ўмыемся. Легіянераў трохі адагналі, а там немцы пруць.* Грахоўскі.

**УМЫВ`АЦЦА СЛЯЗ`АМІ (СЛЯЗЬМ`І, СЛЯЗ`ОЙ).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Горка, няўцешна плакаць. **Сін**.: абліваццa слязамі; бярозаю ліцца; вачэй не асушваць; выплакаць <усе> вочы; выціскаць слязу (у 3 знач.); ліць слязу <*па кім*>; пець рэпку; пускаць слязу; разводзіць сырасць; распускаць нюні (у 3 знач.). *Не тоячыся скажу, выплакаў я свае слёзы. Не на людзях, канешне. Сорамна нашаму брату слязой умывацца.* Лынькоў. *Але ўсё роўна піць кінуў. І такая ў нас... пачалася любоў — жонка як і не ўмывалася слязамі.* Кусянкоў. **УМЫЦЦА СЛЯЗАМІ (СЛЯЗЬМІ, СЛЯЗОЙ).** *Зак. Памянеш мяне, слязамі ўмыешся, калі будзеш цярпець ды маўчаць.* Гаўрылкін. *— А маладуха хоць бы што. Не ведае, якое горанька яе чакае... Не раз слязьмі ўмыецца, — казала прысадзістая і тоўстая, як капа, Міронава Лёкса — суседка Данілы.* Сіняўскі.

*УМЫВАЦЬ* ● **УМЫВ`АЦЬ Р`УКІ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Адмаўляцца ад удзелу ў чым-н., ухіляцца ад адказнасці. *Тэкля заўважыла праз Нінчына плячо, як солтыс з кухні сігае ў свіронак, і ўсё зразумела. — А-а, дык твой умывае рукі, та-ак?* Карпюк. *— Я ж вам сказаў пра нашы магчымасці,.. — Райана, значыць, умывае рукі. Ну што ж. Пайду шукаць дапамогі дзе-небудзь у іншым месцы.* Васілевіч. **УМЫЦЬ РУКІ.** *Зак. «Табе дык што, — думае пра Яцыну Рыгор. — Адразу рукі ўмыў, а мне вунь колькі клопату прыйшлося пережыць».* Лецка.

*УМЫЦЦА* ● **УМЫЦЦА КРОЎЮ.** *Зак. да* **УМЫВАЦЦА КРОЎЮ.**

**УМЫЦЦА СЛЯЗАМІ.** *Зак. да* **ЎМЫВАЦЦА СЛЯЗАМІ.**

*УМЫЦЬ* • **УМЫЦЬ РУКІ.** *Зак. да* **ЎМЫВАЦЬ РУКІ.**

*УНЕСЦІ* • **УНЕСЦІ СВОЙ УКЛАД** *у што. Зак. да* **ЎНОСІЦЬ СВОЙ УКЛАД** *у што.*

*УНІЗ* • **ГЛЯДЗЕЦЬ ЗВЕРХУ ЎНІЗ** *на каго, на што.* Гл. глядзець.

**КАЦІЦЦА ЎНІЗ.** Гл. каціцца.

*УНІМКУ* • **БЕЗ УН`ІМКУ.** *Акал. Разм.* Не сціхаючы, не абмяжоўваючы сябе, бесперастанку (рабіць што-н.). **Сін**.: без упынку. *Волька і спяваць магла гадзінамі без унімку, і танцаваць да ўпаду.* Мыслівец. *Архіп Архіпавіч нешта ўсё гаварыў. Гаварыў без унімку.* Сіняўскі.

**УНІМКУ НЯМА** *на каго.* Гл. няма.

*УНІСОН* • **ВА ЎНІС`ОН.** *Акал. Кніжн.* **1**. *з чым, чаму.* Сугучна (спяваць, гучаць і пад.). **Сін**.: у тон (у 3 знач.). *«Янка» гучала «шырэй», «свабодней», ва ўнісон з песенна-адкрытым, паўнагучным «Купала».* Лойка. *Пасля [матор] загуў роўна і сцішана, ва ўнісон вячэрняй цішыні.* Ліпскі.

**2**. *з кім, з чым.* Узгоднена, зладжана (рабіць што-н., дзейнічаць і пад.). *Каб мець вечнасць у запасе і насіць прарока імя, — ва ўнісон, брат, час ад часу падвываць ты мусіш з імі [рэдактарамі].* Танк. *Гучаць за кадрам словы Купалы. Літаральна ва ўнісон з імі замаруджана рухаюцца на экране сяляне з хатулямі за плячыма.* «Полымя».

**3**. Згодна (адказваць, рэагаваць на што-н.). — *Гэта было даўно... у Крушняярску, у кватэры майго бацькі, доктара Неерзона... — Доктара Неерзона... — ва ўнісон паўтарыў ён [Краўчанка].* Мікуліч. — *Акурат так яно і бывае, — ва ўнісон пагадзіліся [субяседнікі].* «ЛіМ».

*УНОСІЦЬ* • **УН`ОСІЦЬ СВ`ОЙ УКЛ`АД** *у што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці зборн. знач. Прымаць пасільны ўдзел у чым-н. *Адначасова з Быкавым уносілі свой уклад у вялікі летапіс Айчыннай вайны многія нашы празаікі.* Бугаёў. *Свой уклад у ажыццяўленне сувязі навучання з жыццём, з практыкай уносяць і іншыя кабінеты.* «Настаўн. газ.» **УНЕСЦІ СВОЙ УКЛАД** *у што. Зак. Свой уклад у павелічэнне духоўнага вопыту грамадства заклікаты ўнесці і літаратары.* Хомчанка.

*УНТЭР* • **`УНТЭР ПРЫШЫБ`ЕЕЎ.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* Самачынны ахоўнік парадку, душыцель свабоды. *Не будзь унтэрам прышыбеевым, не лезь, куды цябе не просяць.* Дамашэвіч. *Платон Грушка і Вера Ігнатаўна таксама мараць аб будучыні Серадзібора.., дзе ўсе людзі будуць пісьменнымі, свядомымі, дзе не будзе ні Вераб'ёў, ні Зашчамілаў і, вядома, такіх

*унтэр прышыбеевых, як Чухноўскі...* Пестрак. *Ведаеш, што пра цябе гавораць? Унтэр прышыбеевым называюць.* Кобец-Філімонава.

*УПАДАЦЬ* ● **УПАДАЦЬ У ВОКА** *каму.* Гл. западаць.

*УПАДЗЕ* ● **ВОЛАС З ГАЛАВЫ НЕ ЎПАДЗЕ** *ў каго, з чыёй.* Гл. волас.

*УПАДУ* ● **ДА ЎП`АДУ.** *Акал. Разм.* Да знямогі, да поўнай страты сіл (рабіць што-н.; таксама ў спалучэнні з наз. *танцы).* **Сін**.: да сёмага поту. *Вам пакінулі прадзеды гартаваны косы, каб вы з імі сонца следам выйшлі на пракосы; каб касілі да упаду пустацвет і зелле, што сваім пякучым ядам труцяць кроў у целе.* Купала. *І я з ім сябраваў, і я спяваў «Дасаду» і ў бубен падбіваў, і танцаваў да ўпаду.* Куляшоў. *Самотай адыходзілі ў памяць пасляваенныя ліхія частушкі, танцы да ўпаду пад гармонік.* Мыслівец.

*УПАЛА* ● **<НІБЫ> ЗАСЛОНА ЎПАЛА З ВАЧЭЙ** *у каго, чыіх.* Гл. заслона.

**СЭРЦА ЎПАЛА** *ў каго, чыё.* Гл. сэрца.

*УПАСЦІ* ● **З БЫК`А ЎП`АСЦІ.** *Абл. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Сказаць ці зрабіць што-н. недарэчнае. **Сін**.: з’язджаць з глузду (у 2 знач.); сыходзіць з поля (у 2 знач.). — *Я хачу трапіць на карабель, каб дабрацца да Краіны Цудаў... — Ты што — з быка ўпаў? Дзе яна ёсць тая краіна? — зноў зарагатаў Алік.* Ялоўчык.

**УПАСЦІ ДУХАМ.** *Зак. да* **ПАДАЦЬ ДУХАМ.**

**УПАСЦІ НА КАЛЕНІ** *перад кім. Зак. да* **ПАДАЦЬ НА КАЛЕНІ** *перад кім.*

**УПАСЦІ <ТВАРАМ> У ГРАЗЬ.** *Зак. да* **ПАДАЦЬ <ТВАРАМ> У ГРАЗЬ.**

**УПАСЦІ Ў ВОКА** *каму. Зак. да* **ЎПАДАЦЬ Ў ВОКА** *каму.*

**`ЯБЛЫКУ НЯМ`А (НЕ БЫЛ`О) ДЗ`Е ЎП`АСЦІ.** *У безас. ужыв. Разм.* **1**. *у чым.* У вялікай колькасці. Пра мноства людзей у якім-н. месцы (у памяшканні, вагоне, на плошчы і пад.). **Сін**.: як селядцоў у бочцы *ў чым. Там як бы ні было, а на папова шчасце ў царкве і яблыку няма дзе ўпасці.* Крапіва. *У зале людзей — яблыку няма дзе ўпасці.* «Полымя». *У станцыйнай пачакальні людзей — яблыку няма дзе ўпасці.* Кухараў.

**2**. Вельмі цесна, няма свабоднага месца. **Сін**.: ні стаць ні сесці; носа не ўбіць <*куды*>; носа няма дзе ўбіць; пальца не ўваб’еш. — *Зноў Заранік адчыніў дзверы, — злосна заўважыў нехта з глыбіні вагона. — Тут і так няма дзе яблыку ўпасці.* Хадкевіч. *У нас [у бальніцы] і так цесна, бачыце самі. А калі яшчэ маці будуць пры такіх, дык і яблыку не будзе дзе ўпасці.* Сабаленка. *Стаялі ў праходах, у калідоры, сядзелі на вокнах. Адным словам, як кажуць,*

*яблыку не было дзе ўпасці.* Звонак.

*УПАЎ* ● **ЯК З НЕБА ЎПАЎ.** Гл. зваліўся.

**ЯК У ВАД`У ЎП`АЎ (ПАЙШ`ОЎ, -ЛА, -ЛІ).** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш. ці канкр. прадмета. Нечакана прапаў, знік. **Сін**.: як скрозь зямлю праваліўся; як у ваду кануў. *Дзеткі, увесь дабытак на месцы — усё як было, толькі, значыцца, жарабца не хватае. І ведаеш, хлопча: што нашукаліся, — як у ваду ўпаў.* Ядвігін Ш. *Дзяўчына як у ваду ўпала, і Арсень нарэшце прыйшоў да вываду, што шукаць яе далей няма сэнсу.* Хадкевіч. *Вось жа абяцаў, што прыедзе, але — на табе, як у ваду ўпаў, няма.* Мурашка. *А сам [хлопец] як у ваду пайшоў: недзе прапаў у людзях.* Калюга.

*УПЕРАД* ● **ВЫНЕСЦІ ЎПЕРАД НАГАМІ** *каго.* Гл. вынесці.

**НІ ЎЗАД НІ ЎПЕРАД.** Гл. узад.

**ПАПАСЦІСЯ Ў НЕРАТ <НІ ЎЗАД НІ ЎПЕРАД>.** Гл. папасціся.

**ТО ЎЗАД ТО ЎПЕРАД.** Гл. узад.

**УЗАД І ЎПЕРАД.** Гл. узад.

*УПІСАНА* ● **УП`ІСАНА (-Ы) ЗАЛАТ`ЫМІ Л`ІТАРАМІ** *ў што. Зак. Кніжн. Узнёсл.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Захаваецца ў памяці людзей як выдатная з’ява чаго-н. *Імя Льва Міхайлавіча Даватара залатымі літарамі ўпісана ў гісторыю Вялікай Айчыннай вайны.* Чорны. *Подзвігі гэтага бясстрашнага чалавека залатымі літарамі ўпісаны ў гістарычную эпапею партызанскай барацьбы на Беларусі.* Вітка. *Той дзень — 12 красавіка 1961 года — залатымі літарамі ўпісаны ў гісторыю чалавецтва.* Гіль.

*УПІСАЦЬ* ● **УПІС`АЦЬ Н`ОВУЮ (`ЯРКУЮ, СЛ`АЎНУЮ) СТАР`ОНКУ** *ў што. Зак. Кніжн. Узнёсл.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, сукупнасці асоб ці абстр. прадмета. Зрабіць што-н. новае, знамянальнае ў якой-н. галіне. **Сін**.: адкрываць амерыку (у 2 знач.); адкрываць новую старонку *ў чым. Гэта будзе не проста даніна павагі выпускніку, які ўпісаў у гісторыю вучылішча новую старонку.* «Настаўн. газ.» *Яраслаў Гашак упісаў яркую старонку ў гісторыю сусветнай сатыры.* «Полымя». *Слаўную старонку ўпісалі партызаны Капыльшчыны ў летапіс барацьбы.. з фашысцкімі захопнікамі.* С.Александровіч.

*УПОПЕРАК* ● **УДОЎЖ І ЎПОПЕРАК.** Гл. удоўж.

*УПОР* ● **ВА ЎП`ОР.** *Акал. Функц. не зам.* **1**. Пільна, прама (глядзець, разглядаць і пад.). **Сін**.: на ўсе вочы. *Госць пракаўтнуў дранік, паклаў відэлец, адкінуўся на спінку крэсла, павярнуўся ў яе бок і таксама ва ўпор паглядзеў жанчыне ў шырока расплюшчаныя вочы*

*— блакітныя азёры.* Шамякін. *Папярхнуўшыся смехам, Аня ва ўпор зіркнула.., грэбліва скрывілася і, ускінуўшы галаву, хутка пайшла прэч.* Карпаў.

**2**. Адкрыта, без хітрыкаў (сказаць, спытаць і пад.). **Сін**.: адкрытым тэкстам; вочы ў вочы (у 2 знач.); у адкрытую; у вочы *казаць*; у лоб (у 2 знач.); у твар *гаварыць*. **Ант**.: за вочы (у 3 знач.). *Я напружваюся, як перад скачком у атаку, і пытаю ва ўпор: — Вы — Сахно?* Быкаў. *—Адкуль і па якой дарозе вы ўцякалі? — ва ўпор спытаў ён.* Лецка.

**3**. З вельмі блізкай адлегласці, наблізіўшыся амаль усутыч (страляць, забіваць і пад.). *«Рукі ўгору!» — грыміць грозны голас Нядолі. У старога ва ўпор гад і стрэліў з пістолі.* Куляшоў. *Не верыла [Анюта]: няўжо гэта яна забіла чалавека? Во толькі што, ва ўпор...* Місько.

*УПРАВІЦЬ* ● **УПРАВЩЬ МАЗГІ** *каму. Зак. да* **ЎПРАЎЛЯЦЬ МАЗГІ** *каму.*

*УПРАЎЛЯЦЬ* ● **УПРАЎЛ`ЯЦЬ (УСТАЎЛ`ЯЦЬ) МАЗГ`І** *каму. Незак. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымушаць каго-н. паступаць больш разумна, развам разважліва. **Сін**.: ставіць мазгі на месца *каму. [Дугін:] Аж смешна! Як які-небудзь вывіх на зямлі — усё на нас! Усім павінны мазгі ўпраўляць: Чынгісхану! Рыцарам! Напалеону! Кайзеру! Гітлеру! Як пракляцце якое на народ!* Дудараў. *— У мяне былі сурёзныя памылкі, — расчуліўся Мяснікоў. — Часам зверху ўніз паглядаў. Адно ж, выходзіць беларусы мне ўстаўляюць мазгі.* Гурскі. **УПРАВІЦЬ (УСТАВІЦЬ) МАЗГІ** *каму. Зак. — Я ж казала: не едзь, дык хіба ўправіш яму мазгі? — раптам сарвалася на крык Зіна і павярнула назад, у хату.* Кудравец. *Ну дабяруся ж я да іх — да крытыкаў маіх! Я пакажу ім ленасць гэтымі клюшнямі, я ўстаўлю ім мазгі, калі не ўставіў бог!* Э.Валасевіч. *Мякка сцеле, ды мулка спаць, так? Дык вось яму мы мазгі ўправім. Абяцаю вам, на працу ён вас верне.* Шамякін.

*УПУСКАЦЬ* ● **НЕ ЎПУСК`АЦЬ З В`ІДУ** *каго, што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Трымаць пад пільнай увагай. *Школа і грамадскасць павінны не ўпускаць з віду і якраз гэтых галоўных асноў працоўнага выхавання: ці ведаюць дзеці — усе, кожны вучань, дзе працуюць, чым важным і неабходным для грамадства заняты іх бацькі?* Вітка. **НЕ ЎПУСЦІЦЬ З ВІДУ** *каго, што. Зак.*

**УПУСК`АЦЬ (ВЫПУСК`АЦЬ) З В`ІДУ** *каго, што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не ўлічваць што-н., забывацца аб кім-, чым-н. **УПУСЦІЦЬ (ВЫПУСЦІЦЬ) З ВІДУ** *каго,*

*што. Зак. Мы неяк і з віду ўпусцілі — у свата імяніны, аказваецца. Прыйдзецца ісці.* Гігевіч. — *Вы жадаеце падкрэсліць, што на першым плане ў абаронцаў быў чалавечы фактар – мужнасць, стойкасць, гераізм... — І прага да жыцця... — Сапраўды, Пётр Міронавіч. Я неяк упусціў гэта з віду.* «Полымя». *[Харбін] мог згледзець і яе, і Мікалая, і лётчыкаў... Яна на яго забылася. Кукаева баялася, а Харбіна з віду выпусціла.* Пташнікаў.

*УПУСЦІЦЬ* ● **НЕ ЎПУСЦІЦЬ З ВІДУ** *каго, што. Зак. да* **НЕ ЎПУСКАЦЬ З ВІДУ** *каго, што.*

**УПУСЦІЦЬ З ВІДУ** *каго, што. Зак. да* **ЎПУСКАЦЬ З ВІДУ** *каго, што.*

*УПЫНКУ* ● **БЕЗ УП`ЫНКУ.** *Акал. Разм.* Не перастаючы, не сціхаючы, не абмяжоўваючы сябе (рабіць што-н.). **Сін**.: без унімку. *Увішная Малання без упынку развязвае сноп за снопам, падсоўвае да Паўла.* Мележ. *Стары Базыль сядзеў на лаве і без упынку курыў самасад.* Курто.

*УРА* ● **НА ЎР`А.** *Акал. Разм.* **1**. З энтузіязмам, горача (сустракаць, прымаць і пад.). *Асноўная ж маса сяброў сустрэла маё паведамленне на ўра.* Корбан. *Громаў ведаў, што камедыя Аляксея Пятровіча пры сучасным голадзе пойдзе на ўра.* Гігевіч.

**2**. З разлікам на ўдачу, на выпадковы поспех (рабіць што-н.). **Сін**.: на авось; на авось ды нябось. *Мы ўсё на ўра прывыклі.* Шамякін.

**НА ЎР`А** <u>*падкідаць, паднімаць.*</u> *Акал. Разм.* (Падкідаць каго-н.) угору, віншуючы з чым-н. — *На ўра! На ўра! — Пісара падхапілі на рукі і пачалі шугаць.* Колас. *[Антаніна Васільеўна:] Прыйшоў. Засопшыся, гальштук на баку, гузікі ў пінжаку павырываны. Ледзь жывы вырваўся. [Генка:] Неўміручыя? На ўра падкідалі?* Крапіва. *За Людкай пачалі выбягаць на двор другія дзяўчаты, потым выйшлі гуртам хлопцы і паднялі Івана на ўра.* Ермаловіч.

*УРВІ* ● **УРВІ ДЫ ПАДАЙ.** Гл. сарві.

*УРЭЗАЦЦА* ● **УР`ЭЗАЦЦА Ў П`АМЯЦЬ (У ГАЛАВ`У)** *каму. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Моцна запомніцца. **Сін**.: не выходзіць з галавы <*чыёй, у каго*>; стаяць у галаве *каму, чыёй*; сядзець <цвіком> у галаве *ў каго, чыёй. І страшна ўрэзаліся ў памяць яму [міліцыянеру] сінія жылы хворай, што ўздуліся, як вяроўкі.* Чорны. *Урэзаліся Марцінавы словы Юзіку ў памяць.* Крапіва. *Будынiны, палі, шырокі, роўны, як стол, стэп, рачулка, што ўецца гнуткаю стужкаю сярод кустоў, — усё гэта надоўга ўрэзалася ў памяць.* Гігевіч. *Урэзаўся ён [настаўнік] мне ў памяць. Як жывога, бачу яго перад сабой.* Ермаловіч. *Крамянём*

*урэзаліся словы ў галаву Андрону.* Каваль.

*УРЭЗАЦЬ* ● **УРЭЗАЦЬ ДУБА.** Гл. даваць.

*УСАДЗІЦЬ* ● **УСАДЗ`ІЦЬ Н`ОЖ У СП`ІНУ** *каму, чаго. Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Учыніць подласць, здраду ў адносінах да каго-, чаго-н. — *Усё ведаем! — бясстрашна адказаў рабочы ў зашмальцаванай паддзёўцы. — Ведаем, што ваш Доўбар-Мусніцкі хоча ўсадзіць нож у спіну рэвалюцыі!* Хацкевіч. *Контррэвалюцыя вяла зацятую барацьбу, наладжвала змовы, з розных бакоў імкнулася ўсадзіць нож у спіну рэвалюцыі.* Гурскі.

**УСАДЗІЦЬ <СВОЙ> НОС** *куды, у што.* Гл. соваць.

*УСЕ* ● **БЛЫТАЦЬ <УСЕ> КАРТЫ** *каму, чые, каго.* Гл. блытаць.

**БРАЦЬ НА ЎСЕ ЖЫЛЫ.** Гл. браць.

**ВА ЎСЕ ВУШЫ.** Гл. вушы.

**ВА ЎСЕ ЛАПАТКІ.** Гл. лапаткі.

**ВЫКЛАДВАЦЬ <УСЕ> КАРТЫ <НА СТОЛ>.** Гл. выкладваць.

**ВЫПЛАКАЦЬ <УСЕ> ВОЧЫ.** Гл. выплакаць.

**ЗАСТУКАЦЬ ВА ЎСЕ ДЗВЕРЫ.** Гл. застукаць.

**ЗАТЫЧКА ВА ЎСЕ ДЗІРКІ.** Гл. затычка.

**ЗВАНІЦЬ ВА ЎСЕ ЗВАНЫ.** Гл. званіць.

**НА ЎСЕ БАКІ.** Гл. бакі.

**НА ЎСЕ ВОЧЫ.** Гл. вочы.

**НА ЎСЕ ГРУДЗІ.** Гл. грудзі.

**НА ЎСЕ ЖЫЛЫ.** Гл. жылы.

**НА ЎСЕ ЗАСТАЎКІ.** Гл. застаўкі.

**НА ЎСЕ ЛАДЫ.** Гл. лады.

**НА ЎСЕ НОГІ.** Гл. ногі.

**НА ЎСЕ РУКІ.** Гл. рукі.

**НА ЎСЕ САНІ.** Гл. сані.

**НА ЎСЕ СТО.** Гл. сто.

**НА ЎСЕ ТРЫЦЦАЦЬ ДВА <ЗУБЫ>.** Гл. зубы.

**НА ЎСЕ ЧАТЫРЫ <БАКІ>.** Гл. бакі.

**НАЦІСКАЦЬ НА ЎСЕ ПЕДАЛІ.** Гл. націскаць.

**НЕ ЎС`Е Д`ОМА** *ў каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. прыдуркаваты, ненармальны. **Сін**.: дах паехаў *у каго*; дурны поп хрысціў *каго*; зрух па фазе *ў каго*; клёпкі не хапае <у галаве> *у каго*; мазгі адсохлі *ў каго* (у 2 знач.); мазгі набакір *у каго*; мазгі не на месцы *ў каго*; мякіна ў галаве *ў каго*; салома ў галаве *ў каго, чыёй*; шарыкі за ролікі заходзяць *у каго.* **Ант**.: галава варыць *у каго*; <ёсць> <свая> галава на плячах *у каго*; кацялок варыць *у каго*; мазгі вараць *у каго*; не галава, а дом саветаў *у каго*; светлая галава *ў*

*каго. — Яніна... У цябе не ўсе дома, ці што? — баязліва кажа Анэлька.* Мурашка. *Усяго-ўсякага — калі было да гаворкі — казалі пра Хадоську: і было ў тых гаворках іншы раз і такое, што ў яе «не ўсе дома», што яна трохі, не інакш «кручаная».* Мележ. *З цягам часу нават суседзі паверылі, што ў Пракопа не ўсе дома.* Гроднеў.

**ПАД УСЕ БОЧКІ ШПУНТ.** Гл. шпунт.

**ПАЛІЦЬ <УСЕ> МАСТЫ <ЗА САБОЙ>.** Гл. паліць.

**ПЕРАБІРАЦЬ <УСЕ> КОСТАЧКІ** *чые, каго, каму.* Гл. перабіраць.

**ПРАГЛЕДЗЕЦЬ <УСЕ> ВОЧЫ.** Гл. прагледзець.

**ПРАСЛУХАЦЬ <УСЕ> ВУШЫ.** Гл. праслухаць.

**ПРАТРУБІЦЬ <УСЕ> ВУШЫ** *каму <пра каго, пра што, аб кім>.* Гл. пратрубіць,

**СКЛАНЯЦЦА НА ЎСЕ ЛАДЫ.** Гл. скланяцца.

**СКЛАНЯЦЬ НА ЎСЕ ЛАДЫ** *каго, што.* Гл. скланяць.

**СТУКАЦЬ У <ВА ЎСЕ> ДЗВЕРЫ.** Гл. стукаць.

**<УСЕ> БЛОХІ ПАДОХЛІ** *ў каго.* Гл. блохі.

**УСЕ ГІЗУНТЫ ПАВЫЦЯГВАЦЬ** *з каго.* Гл. гізунты.

**<УСЕ> ДАРОГІ АДКРЫТЫ** *каму, перад кім.* Гл. дарога.

**<УСЕ> ДАРОГІ АДРЭЗАНЫ** *каму да каго, куды.* Гл. дарога.

**<УСЕ> ЖДАНКІ ПАЕСЦІ.** Гл. паесці.

**<УСЕ> КАРТЫ ЗМЕШАНЫ** *чые, каго.* Гл. карты.

**<УСЕ> КАРТЫ РАСКРЫТЫ** *чые.* Гл. карты.

**<УСЕ> КАРТЫ Ў РУКІ** *каму.* Гл. карты.

**<УСЕ> КРОШКІ ПАБРАЎ** *чые, каго, у каго, з каго.* Гл. пабраў.

**УСЕ СВЕЧКІ ЗАГАРАЮЦЦА** *з каго, ад каго.* Гл. свечкі.

**<УСЕ> ХАДЫ І ВЫХАДЫ.** Гл. хады.

**<УСЕ> ШЫШКІ СЫПЛЮЦЦА** *на каго.* Гл. шышкі.

*УСЁ* ● **А ЎСЁ Ж ТАКІ ЯНА РУХАЕЦЦА!** Гл. яна.

**ВО́СЬ І ЎСЁ.** *У безас. ужыв. Разм.* На гэтым і канец. Ужыв. як вынік пералічанага, зробленага, сказанага. **Сін**.: дзве дзюркі ў носе і скончылося. *Антонік упаў. Я быў падумаў, што забіты. Хацеў падбегчы, бачу, страляе. Тады я сам упаў. Вось і ўсё.* Шыцік. *Фота давала адно — разбег уяўленню: статны дзяцюк у высокім фрэнчы стаіць, прыбраўшыся, як перад фэстам, — вось і ўсё.* Семашкевіч.

**І ЎСЁ ТАКО́Е.** *Разм.* Выраз, які замяняе не даказаную да канца, але зразумелую з папярэдняга думку. Гэта і падобнае. *У інспектара былі свае меркаванні — ён проста баяўся плётак наконт хабару і ўсё такое.* Крапіва. *[Мікалай Сяргеевіч:] А чаго ж яна хоча? [Лявон:] Каб я карову даіў, каб спадніцу ёй мыў, абед гатаваў і ўсё такое... Каб бабай стаў.* Макаёнак.

**І ЎСЁ ТУ́Т.** *Разм. У безас. ужыв.* Больш нічога; няма пра што

гаварыць. — *Буду коратка мецъ слова, — кажа ён, як бы меў клопат, — для Камуны нашай новай жанчын трэба, ну, і ўсё тут.* Купала. *На курорт сёлета я ўсё роўна паеду! Паеду, і ўсё тут! Як надумала, так і зраблю.* Васілёнак. *Выйсце трэба было знайсці, і ўсё тут. Інакш — правал.* Карпаў.

**НА ЎСЁ ГОРЛА.** Гл. горла.

**ПЕРАВАРОЧВАЦЬ <УСЁ> НУТРО** *ў каго.* Гл. пераварочваць.

**РАЗ-ДВА І ЎСЁ.** Гл. раз.

**СЕМ ВЁРСТ ДА НЯБЁС І ЎСЁ ЛЕСАМ.** Гл. вёрст.

**СТАВІЦЬ УСЁ НА <СВАЁ> МЕСЦА.** Гл. ставіць.

**УС`Ё АДН`О.** *Разм.* **1**. *Акал.* Абавязкова, пры любых абставінах. **Сін**.: усё роўна (у 3 знач.); хоць круць хоць верць. *[Зося] глядзела на камісара і думала: «Скажу яму, дзе жыта схавана. Усё адно я тут намерылася больш не служыць. Я яму ўсё пра сябе раскажу».* Чорны. *[Касцюкевіч:] Памру я. Усе людзі на зямлі смяротныя... А толькі недарма я памру... А вас... вас усё адно паб'юць. Усіх.* Маўзон. *Ну, глядзі ж! Усё адно без мяне табе не жыць! Знай!* Мележ.

**2**. *каму. У безас. ужыв.* Абсалютна аднолькава, без розніцы, не мае значэння для каго-н. **Сін**.: абы дзень да вечара *каму* (у 2 знач.); адзін хрэн *каму*; адзін чорт <*каму, для каго*>; адна трасца <*каму*>; адна халера; адно ліха; і гора мала *каму*; і не шум баравы *каму*; ні горача ні холадна *каму ад чаго*; усё роўна (у 4 знач.); хоць бы хны (у 3 знач.); хоць бы што (у 3 знач.); хоць воўк траву еш; хоць патоп; хоць трава не расці <*каму*>; што з гусі вада *з каго, каму*; як з гусака вада *з каго. Ты сабе плюй ці не плюй — мне ўсё адно: не мая гэта бацькаўшчына і не для сябе мераю. Паслалі мяне сюды, і я павінен слухаць.* Колас. *Цяпер ужо [Сотнікаву] усё адно, хай мерзне нага, мабыць, хутка яна яму будзе ўжо без патрэбы.* Быкаў. *Цяпер ёй усё адно: няхай кажуць, што хочуць, няхай здзекуюцца і кпяць з яе «артыстычнай кар'еры». Яна сама будзе смяяцца з неразумных мар сваіх і маці.* Шамякін.

**УС`Ё АДН`О ЯК (ШТ`О).** *Разм.* **1**. *Акал.* Раўназначна чаму-н.; тое самае, што. Пра што-н. тоеснае, падобнае. **Сін**.: усё роўна як (у 3 знач.). *[Антось:] Падмацавацца б не мяшала, бо ў жываце штось заспявала, а нашча чарачку кульнуць — усё адно што ў рай зірнуць.* Колас. *[Дзяўчына] быццам пацьмянела, пачуўшы адказ Аронаў: усё адно як холад яго слоў нагнаў на люстраную паверхню яе вясёласці цьмянага налёту.* Мурашка.

**2**. У *знач. злучніка.* Як быццам, нібыта. **Сін**.: усё роўна як (у 2 знач.). *Кулямёты ўжо з'явіліся, чуў?.. У адну хвіліну сотні куль, і дзесяткі, а мо, і сотні людзей усё адно як і не жылі...* Мурашка.

**УСЁ Р`ОЎНА.** *Функц. не зам.* **1**. *Акал.* Абавязкова, пры любых абставінах. **Сін**.: усё адно (у 3 знач.); хоць круць хоць верць. — *Чаму вы так пытаецеся?.. — Проста, мне цікава ведаць. — Як бы вам ні адказаў, усё роўна вы не паверыце.* Колас. *Я яго ў школу зусім не пусціла, дык усё роўна над кніжкай карпее — абы дарваўся.* Брыль. *Як бы недзе добра ні было, а ўсё роўна да свайго гнязда горнецца.* Грахоўскі.

**2**. У *знач. злучніка.* Нягледзячы ні на што. *Ідзі, Аўдоля, пасядзі трохі, адпачні. Работа не воўк, у лес не ўцячэ. Закуры, вось, мацака, усё роўна ты ў нас за мужчыну ідзеш.* Крапіва. *Ялавіцкі ўсё роўна дагледзеў на які двор пайшоў чалавек.* Баранавых. *Мірон змоўк. Усё роўна справы не паправіш. А спадзявацца на дапамогу няма чаго.* Маўр.

**3**. У *знач. часціцы.* Ужыв. пры выказванні пярэчання, процідастаўлення папярэдняму. Усё-такі. *Пра бацьку Іваноўскага знаёмыя гаварылі рознае, па-рознаму адносіўся да яго сын, але ўсё роўна гэта быў бацька...* Быкаў. *Калі і я памру, дык ты ўсё роўна прыязджай.* Кудравец. *Яна закрыла рот рукамі, але пыл усё роўна лез у горла, не даючы дыхаць.* Пташнікаў.

**4**. *каму. У безас. ужыв.* Абсалютна аднолькава, без розніцы, не мае значэння для каго-н. **Сін**.: абы дзень да вечара *каму* (у 2 знач.); адзін хрэн *каму*; адзін чорт <*каму, для каго*>; адна трасца <*каму*>; адна халера; адно ліха; і гора мала *каму*; і не шум баравы *каму*; ні горача ні холадна *каму ад чаго*; усё адно (у 2 знач.); хоць бы хны (у 3 знач.); хоць бы што (у 3 знач.); хоць воўк траву еш; хоць патоп; хоць трава не расці <*каму*>; што з гусі вада *з каго, каму*; як з гусака вада *з каго. Мне было ўсё роўна — куды ні ехаць — і я згадзіўся і паехаў.* Гарэцкі. *Для вас вельмі карысны будуць хутары, у каго зямлі ёсць даволі. Ну, а ў каго няма, альбо мала... ім усё роўна.* Галавач. *Табе ўсё роўна. А мне не ўсё роўна, мне тут жыць.* Макаёнак.

**УС`Ё Р`ОЎНА ЯК (ШТ`О).** *Разм.* **1**. *Акал.* Раўназначна чаму-н.; тое самае, што. Пра што-н. тоеснае, падобнае. **Сін**.: усе адно як (у 3 знач.). *Гасцей поўна, усё роўна як дзе сходка ці кірмаш. Ёсць Марыся, Дамініся, Юрка, Сайка і Тамаш.* Купала. *[Сапляк:] А што думаеш! Каб навaрыў ды малаком крыху прыбяліў дык усё роўна як панцак.* Крапіва. *Жыць з чалавекам, не любячы яго, гэта, я так лічу, усё роўна што не жыць!* Мележ.

**2**. У *знач. злучніка.* Як быццам, нібыта. **Сін**.: усё адно як (у 2 знач.). *Усё вакол было так глуха, так нема, усё роўна як закамянела або вымерла.* Колас. *Паспрабаваць дамашняга хлеба —*

*усё роўна што дома пабыць.* Лобан. *У вёсцы стаяў крык: плакалі, усё роўна як вязлі каго хаваць на могілкі.* Пташнікаў.

**ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ.** Гл. хутчэй.

*УСЁЙ* ● **АД <УСЁЙ> ДУШЫ.** Гл. душы.

**З УСЁЙ ДУШОЙ.** Гл. душой.

**З УСЁЙ СІЛЫ.** Гл. сілы.

**ПА <УСЁЙ> ФОРМЕ.** Гл. форме.

**УСЁЙ ДУШОЙ.** Гл. душой.

*УСІМ* ● ***I <усё>*** **ПА ЎСІМ.** *Часцей у безас. ужыв. Праст. Часцей ужыв. ў канцы складанага ск.* На гэтым закончана. Пра канчатковую развязку чаго-н. **Сін**.: і дзела з канцом; і дуды вобземлю; <і> канцы ў ваду (у 2 знач.); і квіта <пане> Мікіта; і не знайся; канцы з канцамі. *— Каб я не знаў дарогі, не павёў бы, — чуваць спераду той самы голас. — Даведу. Там мы як у бога за пазухай прасядзім. Вось толькі што музыкі з намі зашмат. Пачуюць недзе немцы і — па ўсім. Бяда.* Брыль. *За спазненне наложым лёгкі штраф зусім: яшчэ паўзмены, сама меней, нам адчытайце і — па ўсім.* Лужанін. *Раздумаўшыся, Барнась нават узрадаваўся такому здарэнню. Аддаў за дачкой карову — і ўсё па ўсім.* Каваленка. *Гардзей думаў — знайшоў кашалёк, і ўсё па ўсім... I ціш ды гладзь...* Місько.

**УСІМ МІРАМ.** Гл. мірам.

**УСІМ СЭРЦАМ.** Гл. сэрцам.

**УСІМ ФРОНТАМ.** Гл. фронтам.

*УСІМІ* ● **<УСІМІ> ПРАЎДАМІ І НЯПРАЎДАМІ.** Гл. праўдамі.

**УСІМІ СІЛАМІ.** Гл. сіламі.

**УСІМІ СІЛАМІ ДУШЫ.** Гл. сіламі.

**УСІМІ ФІБРАМІ ДУШЫ.** Гл. фібрамі.

*УСІХ* ● **З УСІХ БАКОЎ.** Гл. бакоў.

*Гасцей* **З УСІХ ВАЛАСЦЕЙ.** Гл. валасцей.

**З УСІХ ЖЫЛ.** Гл. жыл.

**З УСІХ КАПЫТОЎ.** Гл. капытоў.

**З УСІХ НОГ.** Гл. ног.

**З УСІХ СІЛ.** Гл. сілы.

**З УСІХ ЧАТЫРОХ.** Гл. чатырох.

**НА ЎСІХ ПАРАХ.** Гл. парах.

**НА ЎСІХ ПАРУСАХ.** Гл. парусах.

**НА ЎСІХ СКРЫЖАВАННЯХ.** Гл. скрыжаваннях.

**НА ЎСІХ ФРАНТАХ.** Гл. франтах.

**ПА ЎСІХ ПРАВІЛАХ.** Гл. правілах.

**ПА ЎСІХ ПРАВІЛАХ МАСТАЦТВА.** Гл. правілах.

**СКЛАНЯЦЬ ВА ЎСІХ СКЛОНАХ** *каго, што.* Гл. скланяць.

**ТРАШЧАЦЬ ПА <ЎСІХ> ШВАХ.** Гл. трашчаць.

*УСКІДАЦЬ* ● **УСКІДАЦЬ ВОЧЫ** *на каго.* Гл. ускідваць.

**УСКІДАЦЬ НА ВОЧЫ** *каму.* Гл. ускідваць.

*УСКІДВАЦЬ* ● **УСК`ІДВАЦЬ (УСКІД`АЦЬ) В`ОЧЫ** *на каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Хутка глядзець на каго-н. **Сін**.: падымаць вочы *на каго, на што. — Пытаўся я ў людзей, брат, сёння наконт зямлі каля Заблоння, — так бацька мову расчынае і вочы весела ўскідае на ўсіх, хто толькі быў у хаце.* Колас. *Іван ускідае вочы на Верку: — Дык з чаго пачнём?* Кудравец. **УСКІНУЦЬ ВОЧЫ** *на каго. Зак. [Маці] ускінула цяпер на яго вочы свае, і ў голасе яе цяжка было заўважыць што большае за гаспадарлівую звычайную руплівасць.* Чорны.

**УСК`ІДВАЦЬ (УСКІД`АЦЬ) НА В`ОЧЫ** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Злаcліва напамінаць пра што-н. непрыемнае. *Ты надта часта нядобра ўспамінала і ўскідвала мне на вочы тое, пра што я сам расказаў табе ў сорак сёмым годзе.* Кудравец. *Я ўжо і забыўся на тыя пяць рублёў, толькі жонка, як не ў гуморы калі-небудзь, ускідвала яшчэ мне на вочы пра гэта.* Стадольнік. **УСКІНУЦЬ НА ВОЧЫ** *каму. Зак. Ганна маўчыць: як толькі азавецца, дык тая і ўскіне на вочы.* Янкоўскі.

*УСКІНУЦЬ* ● **УСКІНУЦЬ ВОЧЫ** *на каго. Зак. да* **ЎСКІДВАЦЬ ВОЧЫ** *на каго.*

**УСКІНУЦЬ НА ВОЧЫ** *каму. Зак. да* **ЎСКІДВАЦЬ НА ВОЧЫ** *каму.*

*УСКЛАДВАЦЬ* ● **УСКЛАДВАЦЬ НА ПЛЕЧЫ** *чые, каго, што.* Гл. узвальваць.

**УСКЛАДВАЦЬ НА СВАЕ ПЛЕЧЫ** *што.* Гл. узвальваць.

**УСКЛАДВАЦЬ САБЕ НА ПЛЕЧЫ** *што.* Гл. узвальваць.

*УСКЛАСЦІ* ● **УСКЛАСЦІ НА ПЛЕЧЫ** *чые, каго што. Зак. да* **ЎСКЛАДВАЦЬ НА ПЛЕЧЫ** *чые, каго што.*

**УСКЛАСЦІ НА СВАЕ ПЛЕЧЫ** *што. Зак. да* **ЎСКЛАДВАЦЬ НА СВАЕ ПЛЕЧЫ** *што.*

**УСКЛАСЦІ САБЕ НА ПЛЕЧЫ** *што. Зак. да* **ЎСКЛАДВАЦЬ НА ПЛЕЧЫ** *што.*

*УСКОЧЫЛА* ● **ДУША Ў ПЯТКІ <УСКОЧЫЛА>** *у каго.* Гл душа.

*УСКРУЖЫЦЬ* ● **УСКРУЖ`ЫЦЬ ГАЛАВ`У** *каму. Зак. Разм. Неадабр.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выклікаць у каго-н. пачуццё кахання, сімпатыі; прывабіць каго-н. **Сін**.: завязваць вочы *каму*; завязваць свет *каму* (у 2 знач.); задурыць галаву *каму* (у 3 знач.); круціць галаву *каму* (у 3 знач.); круціць мазгі *каму* (у 3 знач.); пакараць сэрца *каго, чыё. Каця жартавала. У яе быў пропуск у порт. «Такая хоць куды пралезе і каму хочаш галаву ўскружыць, —*

*зласліва падумаў Антон.* Крыга.

**2**. Ужыв пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Пазбавіць магчымасці правільна разважаць, аб'ектыўна ацэньваць абставіны. **Сін**.: збіваць з панталыку *каго* (у 3 знач.); збіваць з толку *каго* (у 3 знач.); збіваць з тропу *каго*; збіваць з трыбу *каго*; каламуціць ваду (у 3 знач.); кружыць галаву *каму* (у 2 знач.); круціць мазгі *каму* (у 2 знач.). *Па яго [А.Твардоўскага] манеры трымацца адчувалася, што вялікі поспех не ўскружыў яму галаву.* Броўка. *Карычневая атрута палілася здрадніцкімі ручайкамі, ускружыла галовы ашуканцам і аматарам лёгкай нажывы, пакарыла розумы слабавольных.* Хадкевіч.

*УСМАКТАЦЬ* ● **УСМАКТАЦЬ З МАЛАКОМ МАЦІ** *што. Зак. да* **ЎСМОКТВАЦЬ З МАЛАКОМ МАЦІ** *што.*

**УСМАКТАЦЬ З МАТЧЫНЫМ МАЛАКОМ** *што. Зак. да* **ЎСМОКТВАЦЬ З МАТЧЫНЫМ МАЛАКОМ** *што.*

*УСМОКТВАЦЬ* ● **УСМ`ОКТВАЦЬ З МАЛАК`ОМ М`АЦІ** *што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Цвёрда засвойваць з самых ранніх гадоў. **Сін**.: усмоктваць з матчыным малаком. **УСМАКТАЦЬ З МАЛАКОМ МАЦІ** *што. Зак. «Нялёгка выкараніць старое з душы чалавека, — думаў сам сабе Зорын, — якое ўсмоктана з малаком маці».* Гурскі. *Уладарыць над ім [словам] можа толькі той, хто з малаком маці ўсмактаў таямніцу яго ўнутранай энергіі, да каго гэта слова прыйшло ў хвіліны першага азарэння як яго першая моўная плоць.* Лобан.

**УСМ`ОКТВАЦЬ З М`АТЧЫНЫМ МАЛАК`ОМ** *што. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Цвёрда засвойваць з самых ранніх гадоў. **Сін**.: усмоктваць з малаком маці. *Праўда ці не, ды кажуць, нібыта ізюбр на памяць ведае усе бліжэйшыя адстоі: ці то з матчыным малаком усмоктвае такую незвычайную навуку, ці, можа, маці водзіць малога, паказвае яму на будучы паратунак.* Кусянкоў. **УСМАКТАЦЬ З МАТЧЫНЫМ МАЛАКОМ** *што. Зак.*

*УСПАМІН* ● **ЛЁГКІ НА ЎСПАМІН.** Гл. лёгкі.

*УСПАМІНАЦЬ* ● **УСПАМІНАЦЬ ДОБРЫМ СЛОВАМ** *каго, што.* Гл. памінаць.

*УСПАМІНЫ* ● **АДН`Ы ЎСПАМ`ІНЫ ЗАСТАЛ`ІСЯ** *ад каго, ад чаго. У безас. ужыв. Разм.* Зусім нічога не захавалася. **Сін**.: адно званне асталося *ад чаго. — Хо-о, — махнуў рукой Косця. — Ад парашута адны ўспаміны засталіся.* Курто. *Вядома, ад нямецкага поезда засталіся адны ўспаміны.* Навуменка. *Ну, Люська, мілая, мабыць, мы з табою не грэшныя... Калі б гэтая штуковіна ўзарвалася, ад*

*нас бы засталіся адны ўспаміны* Левановіч.

*УСПЛЫВАЦЬ* ● **УСПЛЫВАЦЬ НА ПАВЕРХНЮ.** Гл. выплываць.

**УСПЛЫВ`АЦЬ НА П`АМЯЦЬ** *каму, у каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Успамінацца. **Сін**.: лезці ў галаву *каму*; прыходзіць на думку *каму* (у 3 знач.); прыходзіць у галаву *каму* (у 3 знач.); стрэліць у галаву *каму*; стукнуць у галаву *каму* (у 3 знач.); узбрысці на розум *каму*; узбрысці ў галаву *каму* (у 3 знач.); усплываць у памяці *каго, чыёй*; цюкнуць у галаву *каму. Ды вось зноў усплываюць на памяць пісьмо і грошы — ажно з Мінска, а за імі — вялікая, небывалая радасць.* Брыль. **УСПЛЫСЦІ НА ПАМЯЦЬ** *каму, у каго. Зак. Тут у мяне ўсплыло на памяць іншае. Ты ж не ведаеш, што тады было са мною, калі мне давялося лячыць тату, а пасля хаваць яго.* Чорны. *І раптам на памяць яму [Каспару] усплыла Восілене.* Броўка.

**УСПЛЫВ`АЦЬ У П`АМЯЦІ** *каго, чыёй. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Успамінацца. **Сін**.: лезці ў галаву *каму*; прыходзіць на думку *каму* (у 3 знач.); прыходзіць у галаву *каму* (у 3 знач.); стрэліць у галаву *каму*; стукнуць у галаву *каму* (у 3 знач.); узбрысці на розум *каму*; узбрысці ў галаву *каму* (у 3 знач.); усплываць на памяць *каму, у каго*; цюкнуць у галаву *каму. Гэтыя словы.. чамусьці ўсплывалі цяпер у памяці Аніссі, трывожылі.* Лынькоў. **УСПЛЫСЦІ У ПАМЯЦІ** *каго, чыёй. Зак. Зноў усплыла ў памяці тая, далёкая Зорка.* М.Капыловіч.

*УСПЛЫСЦІ* ● **УСПЛЫСЦІ НА ПАМЯЦЬ** *каму, у каго. Зак. да* **ЎСПЛЫВАЦЬ НА ПАМЯЦЬ** *каму, у каго.*

**УСПЛЫСЦІ Ў ПАМЯЦІ** *каго, чыёй. Зак. да* **ЎСПЛЫВАЦЬ Ў ПАМЯЦІ** *каго, чыёй.*

*УСПЛЫЦЬ* ● **УСПЛЫЦЬ НА ПАВЕРХНЮ.** *Зак. да* **ЎСПЛЫВАЦЬ НА ПАВЕРХНЮ.**

*УСПОМНІЦЬ* ● **УСПОМНІЦЬ ДОБРЫМ СЛОВАМ** *каго, што. Зак. да* **ЎСПАМІНАЦЬ ДОБРЫМ СЛОВАМ** *каго, што.*

*УСПОМНІШ* ● **УСПОМНІШ МАЁ СЛОВА.** Гл. памянеш.

*УССЕСЦІ* ● **УССЕСЦІ НА КАРАК** *каму, чый, каго.* Гл. садзіцца.

**УССЕСЦІ НА СВАЙГО КАНЬКА.** Гл. садзіцца.

*УССЕЎ* ● **ЯК ЧОРТ УССЕЎ** *на каго.* Гл. чорт.

*УССЯДЗЬ* ● **ХОЦЬ <ТЫ> НА ВОЎКА ЎССЯДЗЬ.** Гл. узлезь.

*УСТАВАЦЬ* ● **УСТАВАЦЬ НА ДЫБКІ.** Гл. станавіцца.

**УСТАВ`АЦЬ НА Н`ОГІ.** *Незак. Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Папраўляцца пасля хваробы,

ачуньваць, выздараўліваць. **Сін**.: падымацца на ногі (у 3 знач.); станавіцца на ногі (у 3 знач.). **УСТАЦЬ НА НОГІ.** *Зак. Ляжаў ён тыдні два ў шпіталі, а ўстаў на ногі, як шкілет.* Колас. *[Сымонка:] Ты ж яшчэ слабы. Ты ж толькі што на ногі ўстаў.* В.Вольскі. *— Эге, — кажа багацей, — дык гэта ж мая цялушка! Гэта я выкінуў яе — не думаў, што яна на ногі ўстане. Не, тады я забяру сваю карову назад.* Якімовіч.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Папраўляць, паляпшаць матэрыяльнае становішча. **Сін**.: набіраць сілу (у 2 знач.); падымацца на ногі (у 3 знач.); станавіцца на ногі (у 3 знач.); убірацца ў пер'е (у 2 знач.); убірацца ў сілу (у 4 знач.). **УСТАЦЬ НА НОГІ.** *Зак. Хутары памагаюць сялянам устаць на ногі.* Галавач. *— Ну, ты гэта кінь! — пакрыўдзіўся бацька, — тут абы ўзбіцца на гаспадарку, на другога каня, карову купіць, на ногі каб устаць.* Каваль. *На тым тыдні хлебныя карткі ж адмянілі... Гэта ж трэба, давялі праклятыя фашысты, што ўсё ніяк на ногі не ўстанем па-сапраўднаму...* М.Капыловіч.

**УСТАВ`АЦЬ (ПАДЫМ`АЦЦА, ПАДНІМ`АЦЦА) З КАЛ`ЕНЯЎ (-НЬ).** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Пераставаць быць паднявольным, прыніжаным, пакорлівым. *На рубяжы святла і ценяў, на пакалечанай зямлі ўставалі часам мы з каленяў, не паміралі ўсё ж — жылі.* «Звязда». *Беларус, падымайся з каленяў і спяшай, даганяй грамаду...* «ЛіМ». *Наш рабочы клас робіць толькі першыя няўмелыя спробы ўстаць з каленяў...* Быкаў. *Думка пра нацыю, якая ўстае з каленяў, духоўна ўзвышае героя над падзеямі.* Тычына. **УСТАЦЬ (ПАДНЯЦЦА) З КАЛЕНЯЎ (-НЬ).** *Зак. Ніколі з калень не падняцца народу, не ўзняць галавы, пакуль не пачне ён змагацца — адстойваць свабоду, правы.* «Нар. воля». *Край любімы наш, родны стаў няўтульны й галодны. Гнеўна пушча над полем шуміць... Час падняцца з каленяў і жыць.* «Нар. газ.» *Мы, беларусы, выжывем фізічна толькі тады, калі паднімемся з каленяў, адродзім мову, культуру, свае спаконвечныя мудрыя традыцыі...* Законнікаў.

**УСТАВАЦЬ ПЕРАД ВАЧАМІ** *чыімі, у каго.* Гл. паўставаць.

*УСТАВІЦЬ* ● **УСТАВІЦЬ МАЗГІ** *каму. Зак. да* **ЎСТАЎЛЯЦЬ МАЗГІ** *каму.*

**УСТАВІЦЬ ПЯРО** *каму. Зак. да* **ЎСТАЎЛЯЦЬ ПЯРО** *каму.*

**УСТАВІЦЬ СВАЕ ТРЫ ГРОШЫ.** *Зак. да* **ЎСТАЎЛЯЦЬ СВАЕ ТРЫ ГРОШЫ.**

*УСТАЎ* ● **КАБ Я З ГЭТАГА МЕСЦА НЕ ЎСТАЎ.** Гл. я.

*УСТАЎЛЯЦЬ* ● **УСТАЎЛЯЦЬ МАЗГІ** *каму.* Гл. упраўляць.

**УСТАЎЛЯЦЬ ПАЛКІ Ў КОЛА** *каму, чаго.* Гл. ставіць.

**УСТАЎЛ`ЯЦЬ ПЯР`О** *каму. Незак. Праст. Груб.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Караць каго-н., выганяючы адкуль-н. **УСТАВІЦЬ ПЯРО** *каму. Зак. [Стары рабочы:] Хацелі табе пяро ўставіць і дарэмна не ўставілі. Пашкадавалі, думалі — паправішся.* Крапіва. *Здаецца, зараз я ўладкаваўся на работу так, як мае быць. Памятаеш, уставілі нам пяро, і разляцеліся мы ў розныя бакі. Я ў Рэчыцу падаўся.* «Вожык».

**УСТАЎЛ`ЯЦЬ (УТЫК`АЦЬ, С`УНУЦЬ) СВА`Е ТР`Ы ГР`ОШЫ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Умешвацца ў чужыя справы. **Сін**.: лезці са сваім статутам у чужы манастыр; соваць носа не ў сваё проса. — *А то перавёз бы... Пад дубам пасядзелі б... Жолуд адшукалі. — Што я, свіння? —Свіння не свіння, а так, падсвінак, — сказала ўдава. — Насвінак, — сунуў свае тры грошы Кандрат.* Караткевіч. **УСТАВІЦЬ (УТКНУЦЬ, УСУНУЦЬ, ПРЫТКНУЦЬ) СВАЕ ТРЫ ГРОШЫ.** *Зак. [Зося:] А мне таксама добра паслухаць. Часамі і я свае тры грошы ўстаўлю ці пасмяюся з іх.* Крапіва. *Усюды ён [Папсуй] мог дапасці і «ўставіць свае тры грошы».* Чорны. *І нашто табе здаўся гэты хор? Поп маўчыць, не лезе з хорам, дык табе трэба свае тры грошы ўткнуць.* Колас. *Ты шчаслівы, і даражыць такой жонкай трэба Ты не гневайся, што ў вашу справу свае тры грошы ўсунуў.* Машара.

*УСТАЦЬ* ● **УСТ`АЦЬ З Л`ЕВАЙ НАГ`І.** *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць у дрэнным настроі, у раздражнёным стане. **Сін**.: устаць не з той нагі. — *А тое, што мінулася, калі цэглу прывозілі проста ад пячэй — гарачую, з дымам, калі мы яе ў сцены цёплую клалі. А ўсё адно своечасова падвезці не можаце. — Ты што, сёння з левай нагі ўстаў? — уверх, як птушка, зірнуў Алешка.* Карпаў. — *У гэтым пытанні я кансерватар. Чулі такое слова? — Ніякі вы не кансерватар. Хутчэй за ўсё з левай нагі ўсталі.* Пальчэўскі.

**УСТ`АЦЬ З МАГ`ІЛЫ.** *Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ажыць, зноў стаць жывым; адратавацца ад смерці, ачуняць. **Сін**.: вярнуцца з таго свету. *Эх, каб гэта ўстаў з магілы ягоны бацька ды паглядзеў цяперака на сына...* Вышынскі.

**УСТАЦЬ НА ДЫБКІ.** *Зак. да* **ЎСТАВАЦЬ НА ДЫБКІ.**

**УСТАЦЬ НА НОГІ.** *Зак. да* **ЎСТАВАЦЬ НА НОГІ.**

**УСТ`АЦЬ НЕ З Т`ОЙ (ТА`Е) НАГ`І.** *Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Быць у дрэнным настроі, у раздражнёным стане. **Сін**.: устаць з левай нагі. *Ты проста,*

*Мацвееў, не з той нагі ўстаў. Ваяваць тут можна. Я з грамадзянскай ведаю. Давалі прыкурыць немцам, белапалякам...* Навуменка. *Цыган танцор і праўда не благі! — Чаго сядзіш?! Устаў не з той нагі?..* Някляеў. *— Ну, чаго там у мыцельніку стаў, праходзь сюды... — Эге! Мабыць, ты сёння не з тае нагі ўстаў?* Чарнышэвіч. *Адзін Даніла быў злосны, быццам з чарцямі пасварыўся. — Ты, дзядзька Даніла, мабыць, не з тае нагі сёння ўстаў.* Аношкін.

**УСТАЦЬ (ПАДНЯЦЦА) З КАЛЕНЯЎ.** *Зак. да* **ЎСТАВАЦЬ (ПАДЫМАЦЦА) З КАЛЕНЯЎ.**

**УСТАЦЬ ПЕРАД ВАЧАМІ** *чыімі, у каго. Зак. да* **ЎСТАВАЦЬ ПЕРАД ВАЧАМІ** *чыімі, у каго.*

*УСТАЮЦЬ* ● **ВАЛАСЫ ЎСТАЮЦЬ ДЫБАМ** *у каго.* Гл. валасы.

*УСТОІЦЬ* ● **ВАДА НЕ ЎСТОІЦЬ** *на кім.* Гл. вада.

*УСТУПАЦЬ* ● **УСТУПАЦЬ МЕСЦА** *чаму.* Гл. саступаць.

**УСТУП`АЦЬ (УВАХ`ОДЗІЦЬ) У СВА`Е ПРАВ`Ы.** *Незак. Функц. не зам.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пачынаць выконваць свае непасрэдныя абавязкі. *Як толькі падаў змрок, уся сям'я збіралася на чыстай палавіне, і стары Сымон уступаў у свае правы патрыярха.* Нёманскі. *Старшыня адыходзіць, тады ў свае правы ўступае Саша Красуцкі. Ён зачытвае па паперцы, каму і ў якія дні належыць быць у школе на практыцы.* Навуменка. **УСТУПІЦЬ (УВАЙСЦІ) У СВАЕ ПРАВЫ.** *Зак.*

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета *(вясна, лета, дзень, ноч* і пад.). Праяўляцца ў поўную меру, у поўную сілу. **Сін**.: убірацца ў сілу (у 3 знач.); уваходзіць у сілу (у 3 знач.). *Афганскія ночы. Як толькі яны ўступаюць у свае правы, чалавек, знясілены ад спёкі і пылу, адчувае велізарнае аблягчэнне.* «Звязда». **УСТУПІЦЬ (УВАЙСЦІ) У СВАЕ ПРАВЫ.** *Зак. Вясна ў гэтым годзе рана ўвайшла ў свае правы і напоўніла рэчку мутнай і халоднай вадой ледзь не да самых берагоў.* Галавач. *Стаяў адзін з тых непаўторных дзён, якія бываюць толькі ў пачатку чэрвеня, калі яшчэ не мінула вясна, а ўжо ўступіла ў свае правы лета.* Шашкоў.

**УСТУП`АЦЬ (УВАХ`ОДЗІЦЬ) У СТР`ОЙ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета *(завод, цэх, трактар* і пад.). Станавіцца дзеючым. **Ант**.: выбываць са строю (у 2 знач.); гарэць сінім полымем (у 2 знач.). **УСТУПІЦЬ (УВАЙСЦІ) У СТРОЙ.** *Зак. [Шугаеў:] Завод толькі яшчэ ўступіў у строй, дзе ж тут даб'ешся, каб усё было выдатна.* Крапіва. *Абодва трактары, што ўступілі ў строй, згубіліся ў палях, нібы раталі.* Хадкевіч. *Увойдуць у строй прасторныя і сучасныя.. цэхі.* «Звязда».

**УСТУП`АЦЬ У С`ІЛУ.** *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Станавіцца законным, набываць законныя падставы. Пра дагавор, прыгавор, указ і пад. **Сін**.: уваходзіць у сілу (у 4 знач.). *А ў сапраўднасці ў сілу ўступае іншая «логіка». Галоўная асаблівасць гэтай «логікі» ў тым, што крытыку часта мы дагэтуль прызнаём прынцыповай і тактоўнай, пакуль яна гладзіць нас па шэрсці* Мележ. **УСТУПІЦЬ У СІЛУ.** *Зак. Багушэвіч зразумеў, што выконваўся прыгавор міравога суддзі. А прыгавор, які ўступіў у сілу, набывае ўжо сілу закона.* Хомчанка. *Рашэнне, прынятае ўрадам рэспублікі, уступіла ў сілу.* «Звязда».

*УСТУПІЦЬ* ● **УСТУПІЦЬ МЕСЦА** *чаму. Зак. да* **ЎСТУПАЦЬ МЕСЦА** *чаму.*

**УСТУПІЦЬ У СВАЕ ПРАВЫ.** *Зак. да* **ЎСТУПАЦЬ У СВАЕ ПРАВЫ.**

**УСТУПІЦЬ У СІЛУ.** *Зак. да* **ЎСТУПАЦЬ У СІЛУ.**

**УСТУПІЦЬ У СТРОЙ.** *Зак. да* **ЎСТУПАЦЬ У СТРОЙ.**

*УСТУПЛЕННЕ* ● **УСТУПЛ`ЕННЕ Ў С`ІЛУ** *чаго. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Набыццё законных падстаў. *З уступленнем у сілу новага заканадаўства.. аўтаінспекцыя намеціла канкрэтную праграму па яго рэалізацыі.* «Звязда». *Прыгаворы і рашэнні суда аб кампенсацыі маёмасных страт выконваюцца неадкладна, пасля ўступлення іх у сілу.* «ЛіМ».

*УСУНЕ* ● **ВУЖ ГАЛАВЫ НЕ ЎСУНЕ.** Гл. вуж.

*УСУНЕШ* ● **ПАЛЬЦА НЕ ЎСУНЕШ.** Гл. уваб'еш.

*УСУНУЦЬ* ● **УСУНУЦЬ СВАЕ ТРЫ ГРОШЫ.** *Зак. да* **СУНУЦЬ СВАЕ ТРЫ ГРОШЫ.**

**УСУНУЦЬ <СВОЙ> НОС** *куды, у што. Зак. да* **СУНУЦЬ <СВОЙ> НОС** *куды, у што.*

*УСЫПАЎШЫ* ● **ЯК АП`ОШНЯЕ (АСТ`АТНЯЕ) У П`ЕЧ УС`ЫПАЎШЫ (УК`ІНУЎШЫ).** *Акал. Разм.* У стане задуменнасці, маркоты, упадку (быць, сядзець і пад.). **Сін**.: як мыла з'еўшы; як на памінках. *[Паўлінка:] Што ж гэта, пан Адольф, надуўся як мыш на крупы або як апошняе ў печ усыпаўшы?* Купала. — *Ды кінь ты маркоціцца — сядзіць як астатняе ў печ укінуўшы, — раскатурхалі яе бабы.* Арабей. — *Ну, дык што гэта мы заціхлі як апошняе ў печ укінуўшы? — нарэшце падае голас Юзэфа.* Цяжкі.

*УСЫПАЦЬ* ● **УС`ЫПАЦЬ ГАР`АЧЫХ** *каму. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Сурова правучыць каго-н., жорстка расправіцца з кім-н. **Сін**.: даваць гарту *каму* (у 2 знач.); даваць дыхту (у 2 знач.); даваць жару (у 2 знач.); даваць копаці *каму*; даваць перцу *каму* (у 2 знач.); даваць прыкурыць *каму* (у 2 знач.); даваць пытлю *каму* (у 2 знач.); даваць у косці *каму* (у 2 знач.);

даваць у скуру *каму*; даваць чапаласу *каму* (у 2 знач.); даваць чосу *каму* (у 2 знач.); даць па зубах *каму*; даць па карку *каму*; задаваць фефару *каму*; мыліць шыю *каму (у* 3 знач.); намяць бакі *каму*; па сцяне размазваць *каго*; прапісаць іжыцу *каму*; спусціць скуру *з каго* (у 3 знач.); чартоў ганяць. *Успомнілі, што бацька ўсыпаў гарачых сыну не толькі за сапсуты касцюм, але і за дрэнныя поспехі Сузана ў школе.* Лынькоў. *—Палкоўнік Дайгавекаў добра ўсыпаў яму гарачых! — гаварыў яфрэйтар Клімкоў.* Кулакоўскі.

**УС`ЫПАЦЬ (ПАДС`ЫПАЦЬ) П`ЕРЦУ** *каму. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна правучыць каго-н., энергічна ўздзейнічаць на каго-н. **Сін**.: браць пад абстрэл *каго, што*; браць у абарот *каго* (у 2 знач.); браць у пераплёт *каго (у 2* знач.); браць у работу *каго* (у 2 знач.); браць у шоры *каго* (у 2 знач.); выганяць матыліцу *з каго*; выціскаць пот *з каго* (у 2 знач.); даваць гарту *каму* (у 3 знач.); даваць гонку *каму*; даваць дыхту *каму* (у 3 знач.); даваць жару *каму (у* 3 знач.); даваць перцу *каму* (у 3 знач.); даваць піць *каму*; даваць прыкурыць *каму* (у 3 знач.); даваць пытлю *каму* (у 3 знач.); даваць у косці *каму (у* 3 знач.); даваць чапаласу *каму* (у 3 знач.); даваць чосу *каму* (у 3 знач.); задаваць пары *каму*; здымаць стружку *з каго*; мыліць галаву *каму*; мыліць шыю *каму* (у 2 знач.); накруціць хвост *каму*; паддаваць жару *каму* (у 3 знач.); прадзіраць з пясочкам *каго,* спусціць скуру *з каго (у 2* знач.). *Тодар не стаў скупіцца — забраў і чахол. «Ну, Мар'я ўсыпле мне перцу за гэтую качаргу», — падумаў сам сабе і ўсміхнуўся.* Дамашэвіч. — *Дык гэта ж наш старшыня са сваімі баявымі памочнікамі, — усклікнуў хтосьці з прысутных. — Зараз некаму ўсыплюць перцу за спыненне работ.* «Звязда». *Нехта падаў голас, што не стаяць, а ісці трэба да дзяжурнага па станцыі і добра падсыпаць начальству перцу.* Лецка.

*УСЮ* ● **КУРЫНУЮ СІСЮ І ТУЮ НЕ ЎСЮ.** Гл. сісю.

**НА ЎСЮ ГЛОТКУ.** Гл. глотку.

**НА ЎСЮ ГУБУ.** Гл. губу.

**НА ЎСЮ ЖАЛЕЗКУ.** Гл. жалезку.

**НА ЎСЮ ІВАНАЎСКУЮ.** Гл. іванаўскую.

**НА ЎСЮ КАТУШКУ.** Гл. катушку.

**НА ЎСЮ МОЦ.** Гл. моц.

**НА ЎСЮ НАГУ.** Гл. нагу.

**ПЕРАВАРОЧВАЦЬ <УСЮ> ДУШУ** *чыю, каму, каго.* Гл. пераварочваць.

**САПСАВАЦЬ УСЮ АБЕДНЮ** *каму.* Гл. сапсаваць.

**УСЮ ДАРОГУ.** Гл. дарогу.

*УСЯГО* ● **АД <УСЯГО> СЭРЦА.** Гл. сэрца.

**З УСЯГО СВЕТУ.** Гл. свету.

**УСЯГ`О Д`ОБРАГА!** *Выкл. Функц. не зам.* Ветлівы развітальны зварот з добрымі пажаданнямі. Да пабачэння. **Сін**.: будзь здароў (у 3 знач.); бывай здароў. *Ну, бабка, іду на станцыю. Паеду не больш як на два-тры дні. А ты ўжо даглядай госця. Усяго добрага, бабка Параска!* Колас. *[Скаромны:] Дзякую, дзякую. Ну, Уладзімір Андрэевіч, бывайце, усяго добрага.* Макаёнак.

**УСЯГ`О-НАЎСЯГ`О.** *У знач. часціцы. Разм.* Не больш як; толькі. *Тут закончыўся ўрачысты сход, на якім прысутнічаў і Васька. Праўда, яго роля была вельмі маленькай. Ён быў усяго-наўсяго часавым ля дзвярэй.* Лынькоў. *Страх, агідны, ганебны страх, які я перажыў у першым баі, знік, калі я ўбачыў, што гэта ўсяго-наўсяго разведчык.* Шамякін.

*УСЯКАГА* ● **БЕЗ УС`ЯКАГА-`ЯКАГА; БЕЗ НІ`ЯКАГА-`ЯКАГА.** *Акал. Праст.* Нечакана і без якіх-н. падстаў (рабіць што-н.). **Сін**.: без дай рады; без нічога ніякага (у 3 знач.); за будзь здароў (у 3 знач.); за пусты мех <а ў мяху смех>; за так (у 2 знач.); з ласкі на пацеху; не знай не ведай; ні з таго ні з сяго; ні з чаго ні з якага; ні села ні пала; так сабе (у 3 знач.). «А *калі яшчэ каторая [карова] закульгае? — думаў Хомка. — Як так, без усякага-якага, пакідаць, то лепш прырэзаць. Што якое, дык хоць шкура будзе на апраўданне».* Сачанка. *Я таксама лыпаю вачамі: ды што ж гэта робіцца на белым свеце? Без усякага-якага ўзяў [дзяўчыну] і павёў. І смеласці ў яго хапае.* Сяркоў. — *Прагнаў, і ўсё. —За што? Без ніякага-якага?* «Полымя».

*УСЯКАЯ* ● **УСЯКАЯ ТРАСЦА.** Гл. трасца.

**УСЯКАЯ ЎСЯЧЫНА.** Гл. усячына.

**УСЯКАЯ ХВАРОБА.** Гл. хвароба.

*УСЯКІ* ● **НА ЎСЯКІ ВЫПАДАК.** Гл. выпадак.

**НА ЎСЯКІ ПАЖАРНЫ ВЫПАДАК.** Гл. выпадак.

*УСЯКІМ* ● **ВА ЎСЯКІМ ВЫПАДКУ.** Гл. выпадку.

**ВА ЎСЯКІМ РАЗЕ.** Гл. разе.

*УСЯКУЮ* ● **ПАД УСЯКУЮ БОЧКУ ШПУНТ.** Гл. шпунт.

*УСЯМУ* ● **УСЯМУ ГАЛАВА.** Гл. галава.

*УСЯЧЫНА* ● **УС`ЯКАЯ ЎС`ЯЧЫНА.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* **1**. Самыя разнастайныя рэчы, прадметы. **Сін**.: розная рознасць. *Купіла [цётка Палуся] два пуды солі, пуд цукру ды яшчэ там усякай усячыны. Мяркуе, што на ўсю вайну хопіць.* Крапіва. *За ягады мне давалі ўсякую ўсячыну: то рыжы кавалак мыла, то вялізны будзільнік...* Парахневіч.

**2**. Усё без разбору. Аб прадмеце размовы, гутаркі, думак і пад. *З ім [Юльянам] ніколі не сумна — і ўзімку ў школе, і ўлетку дома ён заўсёды выдумвае ўсякую ўсячыну і ўсё ў яго набывае афарбоўку загадкавасці.* Хадкевіч. *Усю ноч не давалі спакою цяжкія трывожныя сны. Плялася ўсякая ўсячына, у галаву лезла розная дрэнь.* С.Александровіч.

*УТАПІЦЬ* ● **У Л`ЫЖЦЫ ВАД`Ы ЎТАП`ІЦЬ** *каго. Зак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прычыніць вялікую непрыемнасць каму-н. з-за дробязі. *Асабліва зласаваліся на Мікіту ўсе тыя, што былі супраць калгаса. Яны гатовы былі ўтапіць Мікіту ў лыжцы вады, то хто ж так стараўся, як не ён?* Колас. *Ты сцеражыся, Іванька, ворагаў нажыў сабе больш, як трэба, Калі трапіш немцам у рукі — свае ў лыжцы вады ўтопяць.* Машара. *Злосць на ахоўнікаў у Залівакі была такая, што ён гатоў быў кожнага з іх у лыжцы вады ўтапіць.* Гурскі. *Знайшоў каго шкадаваць! Ды ён любога ў лыжцы вады ўтопіць. Паразіт і п'яніца. Забойца...* Навуменка.

**УТАП`ІЦЬ (ПАТАП`ІЦЬ) У КРЫВ`І** *што. Зак. Функц. не зам. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. сукупнасці асоб ці абстр. прадмета. Задушыць масавымі забойствамі, пакараннямі. *Як вядома, венгерскую рэвалюцыю праз 133 дні ўтапілі ў крыві.* «Звязда». *Рэвалюцыю не закавалі, не ўтапілі ў крыві. Рэвалюцыя набіралася сілы ў чалавечых сэрцах.* Пашкоў. *Польскія паны.. думалі патапіць у крыві свабоду ўкраінскага і беларускага народаў, знясіліць маладую Савецкую дзяржаву.* Лынькоў.

*УТАПТАЦЬ* ● **УТАПТАЦЬ У ГРАЗЬ** *каго, што. Зак. да* **ТАПТАЦЬ У ГРАЗЬ** *каго, што.*

*УТКНЕ* ● **ВУЖ ГАЛАВЫ НЕ ЎТКНЕ.** Гл. вуж.

*УТКНУЦЦА* ● **УТКН`УЦЦА Н`ОСАМ** *у што. Зак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не адрываючыся і з захапленнем чытаць, пісаць і пад. *А там, за доўгімі сталамі, у стол уткнуўшыся насамі, сядзяць пісцы, як гною кучкі, скрыпяць іх пёры, ходзяць ручкі...* Колас. *Лёня сядзеў, уткнуўшыся носам у задачнік, і на бацькаў зварот не азваўся ні словам.* Васілевіч.

**УТКНУЦЦА СА СВАІМ ЯЗЫКОМ.** *Зак. да* **ЎТЫКАЦЦА СА СВАІМ ЯЗЫКОМ.**

*УТКНУЦЬ* ● **НОСА НЕ ЎТКНУЦЬ** *<куды>*. Гл. убіць.

**УТКНУЦЬ СВАЕ ТРЫ ГРОШЫ.** *Зак. да* **ЎТЫКАЦЬ СВАЕ ТРЫ ГРОШЫ.**

**УТКНУЦЬ <СВОЙ> НОС** *куды, у што. Зак. да* **УТКНУЦЬ <СВОЙ> НОС** *куды, у што.*

**УТКНУЦЬ ЯЗЫК** *у што, куды. Зак. да* **ЎТЫКАЦЬ ЯЗЫК** *у што, куды.*

*УТОПТВАННЕ* ● **УТ`ОПТВАННЕ (ТАПТ`АННЕ) У ГР`АЗЬ** *каго, чаго. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Ачарненне, прыніжэнне, знеслаўленне, несправядлівае абвінавачванне каго-, чаго-н. **Сін.**: абліванне граззю <*каго*>. *Ці захаваюць наступнікі духоўны скарб продкаў? Ці зберагуць пад ашалелым напорам размывання, знішчэння, утоптвання ў грязь усяго, на чым спакон веку трымаўся народ?* Пашкоў.

*УТОПТВАЦЬ* ● **УТОПТВАЦЬ У ГРАЗЬ** *каго, што.* Гл. таптаць.

*УТОРЫ* ● **УТ`ОРЫ АСЛАБ`ЕЛІ** *ў каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. спалохаўся чаго-н. і адступае ад пачатай справы. — *Ой, глядзіце, мужчыны, дрэнна будзе... — Што ўторы аслабелі? — выскаляецца Грамабойчык.* Крапіва.

*УТОЧЫЦЬ* ● **ВУЖ ГАЛАВЫ НЕ ЎТОЧЫЦЬ.** Гл. вуж.

*УТРАПЁНЫ* ● **УТРАПЁНЫ ПОП ХРЫСЦІЎ** *каго.* Гл. поп.

*УТЫКАЦЦА* ● **УТЫК`АЦЦА СА СВА`ІМ ЯЗЫК`ОМ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Умешвацца ў чужую размову. **Сін.**: утыкаць язык *у што, куды.* **УТКНУЦЦА СА СВАІМ ЯЗЫКОМ.** *Зак. Мала спрэчкі са старшынёю, дык яшчэ Мікіта Гладыш сустрэўся і ўткнуўся са сваім языком.* Пальчэўскі.

*УТЫКАЦЬ* ● **УТЫКАЦЬ СВАЕ ТРЫ ГРОШЫ.** Гл. устаўляць.

**УТЫКАЦЬ <СВОЙ> НОС** *куды, у што.* Гл. соваць.

**УТЫК`АЦЬ ЯЗ`ЫК** *у што, куды. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць што-н., калі не просяць; умешвацца ў чужую размову. **Сін.**: утыкацца са сваім языком. **УТКНУЦЬ ЯЗЫК** *у што, куды. Зак. У іх лаянку ўткнулі языкі і іншыя жыхары лесу.* Колас. *Даміцэля! Нашто ён табе? Надта ты ўпраўная — усюды язык уткнеш.* Калюга. *Мо і нядобра, Янінка, што ўткнула і я свой язык у тую гамонку, але ж не магла вытрываць.* Мурашка.

*УХАПІЎШЫ* ● **ЯК (НІБ`Ы) Ж`АРУ ЎХАП`ІЎШЫ.** *Акал. Разм.* Вельмі хутка, спяшаючыся (бегчы, уцякаць і пад.). **Сін.**: без аглядкі (у 3 знач.); без духу *бегчы*; без душы *бегчы*; без памяці (у 3 знач.); ва ўсе лапаткі (у 3 знач.); высалапіўшы язык (у 3 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 3 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсіх парах, на ўсіх парусах; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць

духу (у 3 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 3 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант**.: як чарапаха. *[Ігнась:] Нехта дарогаю да нас бяжыць як жару ўхапіўшы.* Каганец. *[Несцерка:] Халера тых шляхцюкоў на маю галаву прынесла! Бягуць нібы жару ўхапіўшы!.. Калі б злавілі, у турму пацягнулі б!* В.Вольскі. *Хацелася ўцякаць як жару ўхапіўшы, а куды пабяжыш?* Асіпенка.

*УХАПІЦЦА* ● **УХАПІЦЦА АБЕДЗВЮМА РУКАМІ** *за што. Зак. да* **ХАПАЦЦА АБЕДЗВЮМА РУКАМІ** *за што.*

**УХАПІЦЦА ЗА САЛОМІНКУ.** *Зак. да* **ХАПАЦЦА ЗА САЛОМІНКУ.**

*УХАПІЦЬ* ● **УХАПІЦЬ БОГА ЗА БАРАДУ.** *Зак. да* **ХАПАЦЬ БОГА ЗА БАРАДУ.**

**УХАПІЦЬ ШЫЛАМ КАШЫ.** *Зак. да* **ХАПАЦЬ ШЫЛАМ КАШЫ.**

*УЦЕРЦІ* ● **УЦЕРЦІ НОС** *каму.* Гл. падцерці.

**УЦЕРЦІ СЛЁЗЫ** *каму. Зак. да* **ЎЦІРАЦЬ СЛЁЗЫ** *каму.*

*УЦЕРЦІСЯ* ● **УЦЕРЦІСЯ Ў ДАВЕР'Е** *да каго, каму, к каму. Зак. да* **ЎЦІРАЦЦА Ў ДАВЕР'Е** *да каго, каму, к каму.*

*УЦІРАЦЦА* ● **УЦІРАЦЦА Ў ДАВЕР'Е** *да каго, каму, к каму.* Гл. уваходзіць.

*УЦІРАЦЬ* ● **УЦІРАЦЬ СЛЁЗЫ** *каму.* Гл. выціраць.

*УЦЯКАЕ* ● **ЗЯМЛЯ ЎЦЯКАЕ З-ПАД НОГ** *у каго.* Гл. зямля.

*УЦЯМ* ● **БРАЦЬ УЦЯМ** *што.* Гл. браць.

*УЦЯЦЬ* ● **НІ ЎЦ`ЯЦЬ НІ ЎЗ`ЯЦЬ.** *Акал. Разм.* Абсалютна нічога (няма есці). *Ты ж ажэнішся ды будзе ўсяго ставаць, дык і прывыкнеш і палюбіш, а як не будзе ні ўцяць ні ўзяць, дык і любошчы твае пойдуць марна.* Крапіва. *Ды чалавек ён нядрэнны... бывае, ні ўцяць ні ўзяць — Аляксандра і адважыць [пуд жыта].* Баранавых.

*УЦЯЧЭ* ● **У Л`ЕС НЕ ЎЦЯЧ`Э (НЕ ЗБЯЖ`ЫЦЬ, НЕ ПАБЯЖ`ЫЦЬ).** *Зак. Разм.* Часцей ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Яшчэ паспееццa, нічога не зробіцца з кім-, чым-н. — *Справа ў нас, брат, адна сурёзная. — А справа — яна ніколі ў лес не ўцячэ.* Лынькоў. — *Вось толькі мне трэба скокнуць да Цукермана, жыта купіць. — Скокнеш пасля, — сурёзна сказаў Лустач. — Цукерман твой у лес не ўцячэ.* Брыль. *[Кацярына:] Я не так сабе прыйшла, патрэба ёсць. [Рыгор:] Я ж ведаю, што гуляць бы не прыйшла. Ды ліха яе бяры з патрэбаю. У лес не збяжыць.* Крапіва. — *А як вы сваю школу пакінулі? — А дзе яна дзенецца? У лес не пабяжыць, — адказаў, смеючыся, Саханюк.* Колас.

*УЧАРАШНІ* ● **УЧАРАШНІ ДЗЕНЬ.** Гл. дзень.

*УЧАРАШНЯГА* ● **ШУКАЦЬ УЧАРАШНЯГА ДНЯ.** Гл. шукаць.

*УШЫЦЦА* ● **УШЫЦЦА Ў САБАЧУЮ СКУРУ.** Гл. пусціцца.

*УЮН* ● <u>*Круціцца, выкручвацца*</u> **ЯК У`ЮН (В`УЖ) НА <ГАР`АЧАЙ> ПАТ`ЭЛЬНІ (СКАВАРАДЗ`Е).** *Акал. Разм.* Бесперастанку і не знаходзячы выйсця з цяжкіх абставін. *Круціўся, круціўся пан пад бізунамі як уюн на гарачай патэльні, а потым такі не вытрымаў, нема закрычаў: — Аддам, аддам маёнтак!* Якімовіч. *Каб змыліць зенітчыкаў, гэты «месер» круціўся між выбухаў як вуж на гарачай патэльні.* Карпюк. *А ты ж не ведаеш, што няшчасце ўбіла мяне і на кароўнік. Як уюн на гарачай скаварадзе буду круціцца...* Місько. *[Федзя:] Гэтая старая пры ўсіх як пачала мяне сарамаціць, дык так прабірала, што я круціўся як уюн на патэльні.* Зуб. *Пан пракурор выкручваўся як уюн на скаварадзе, ужываў розныя выкрутасы з арсенала свайго пракурорскага майстэрства.* Машара.

*УЯДАЦЦА* ● **УЯД`АЦЦА Ў К`ОСЦІ** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Вельмі назаляць, становячыся прыкрым, нязносным. **Сін**.: браць сваё (у 2 знач.); давацца ў знакі *каму*; даваць аб сабе знаць (у 2 знач.); даваць сябе знаць; уядацца ў пячонкі *каму*. *Супакоена ўздыхнулі загадчыкі дзетдамоў, прыёмнікаў, пазашкольныя работнікі АкрАНА. Апошнім асабліва ўядаўся ў косці Сенька са сваёй бандай.* Лынькоў. **УЕСЦІСЯ Ў КОСЦІ** *каму. Зак. Ёсць у майго суседа сабачанё — ну, каб яно нечага здохла! Так жа ўсім у косці ўелася!* Крапіва. *«Ізаляцыйка» зашумела, і раскалоўся яе лад: не мала ў ёй такіх сядзела, якім у косці ўеўся кат.* Колас. *Мясцоваму насельніцтву найбольш уеўся ў косці гарнізон у Турцы.* Брыль. *Куды ім далей ісці? І так ужо ў косці ўелася гэтае бадзянне...* Місько.

**2**. *каго.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Глыбока ўкараняцца ў каго-н. Пра нежаданыя ідэі, пачуцці і пад. *Аброслыя ядлоўцам шведскія курганы навек задзірванелі, таксама як і замчышчы старадаўніх мясцовых магнатаў, польскі дух якіх, як чума, уядаўся ў косці працоўнага чалавека.* Чорны. **УЕСЦІСЯ Ў КОСЦІ** *каму. Зак. Рабскія пачуцці ўеліся вам у косці. Дакуль жа так, будзе? Час падняць галаву і заявіць, што і мы людзі.* Маўр.

**УЯД`АЦЦА Ў ПЯЧ`ОНКІ (-У, П`ЕЧАНЬ)** *каму. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, адуш., канкр. ці абстр. прадмета. Вельмі назаляць, становячыся прыкрым, нязносным. **Сін**.: браць сваё (у 2 знач.); давацца ў знакі *каму*; даваць аб сабе знаць (у 2 знач.); даваць сябе знаць; уядацца ў косці *каму* (у 3 знач.). **УЕСЦІСЯ Ў ПЯЧОНКІ (-У, ПЕЧАНЬ)** *каму. Зак. Уесца табе ў пячонкі міліцыянерчык гэты!* Мележ. *Дзіўна, колькі жыў, не чуў пра гэту Бесядзь, а цяпер запомню: уелася ў пячонкі!* Чыгрынаў. *Відаць,*

*і начальніку аддзела гэта крутня вакол уяўнага — інакш пакуль не скажаш. — забойства ўелася ў пячонкі.* Шыцік. — *Хіба нам не ўелася яшчэ ў печань вайна? — запытаў ён [Тарэнта] раптам, звяртаючыся да залы.* Галавач. *Гарнізон гэты нам даўно ўеўся ў пячонку — немцы з яго рабілі засады, абстрэльвалі гарматамі партызанскія сцежкі, ставілі міны.* Карпюк.

Ф

*ФАВОРЫ* ● **У ФАВ`ОРЫ** *ў каго. У знач. вык. Кніжн.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці абстр. прадмета. Пад апекай, заступніцтвам (быць, знаходзіцца, аказацца і пад.). *Андрэй ладзіў з Цімохам Гаўрылавічам, нават быў у яго ў фаворы.* Блакіт. *Пушкінскія традыцыі не былі ў фаворы ў 20-я гады і ў нас.* «Маладосць».

*ФАЗЕ* ● **ЗРУХ ПА ФАЗЕ** *ў каго.* Гл. зрух.

*ФАМА* ● **ФАМ`А НЯВ`ЕРНЫ (НЯВ`ЕРУЮЧЫ).** *Мн. не ўжыв. Часцей вык. ці зваротак. Функц. не зам. Неадабр.* Чалавек, якога цяжка прымусіць паверыць чаму-н. *Заслонаў, весела смеючыся, дастаў з кішэні гімнасцёркі сваё колішняе пасведчанне па службе ў дэпо. — Чытай, Фама ты няверны...* Лынькоў. *Стараюся сарыентавацца ў джунглях розных сучасных напрамкаў і школ. Як няверны Фама, хачу да ўсяго дакрануцца сваімі рукамі, каб знаць, што чаго варта.* Танк. — *Ты ж прыродазнаўства вывучаў? — Вывучаў. Але не веру ўсяму, што там напісана. — Вось Фама няверуючы, — сказаў са здзіўленнем Птуха. — Гэта ж навука!* Жалязоўскі. — *Эх ты, Фама няверуючы. Нічога ты, браце, у тэхніцы не кумекаеш! Бачыш правадкі, а на канцы металічную скрыначку? Гэта — датчыкі...* «Вожык».

*ФАНФАРЫ* ● **ТРУБІЦЬ У ФАНФАРЫ.** Гл. трубіць.

*ФАРБАВАНЫХ* ● **ПАЗНАЦЦА НА ФАРБАВАНЫХ ЛІСАХ.** Гл. пазнацца.

*ФАРБАЙ* ● **МАЛЯВАЦЬ ЧОРНАЙ ФАРБАЙ** *каго, што.* Гл. маляваць.

*ФАРБАМІ* ● **МАЛЯВАЦЬ РУЖОВЫМІ ФАРБАМІ** *каго, што.* Гл. маляваць.

*ФАРБАЎ* ● **ЗГУШЧЭННЕ ФАРБАЎ.** Гл. згушчэнне.

*ФАРБАХ* ● **У РУЖОВЫХ ФАРБАХ.** Гл. святле.

**У ЧОРНЫХ ФАРБАХ.** Гл. святле.

*ФАРБЫ* ● **ЗГУШЧАЦЬ ФАРБЫ.** Гл. згушчаць.

**Ф`АРБЫ ЗГУШЧ`АЮЦЦА (ЗГУШЧ`АЛІСЯ, ЗГУСЦ`ІЛІСЯ).** *У безас. ужыв. Функц. не зам.* Што-н. празмерна перабольшваецца, драматызуецца. *У пераважнай большасці [твораў І.Шамякіна] сучаснасць вывяраецца штодзённым жыццём, бытавымі клопатамі і турботамі. Фарбы згушчаюцца, адмоўныя эмоцыі нагнятаюцца.* Андраюк.

*ФЕНІ* ● **ДА Ф`ЕНІ** *каму. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Абсалютна нічога не значыць, не патрэбна, не цікава. **Сін.**: да аднаго месца *каму*; да лямпачкі *каму*; ні ішоў <і> ні ехаў *каму*; па барабану *каму*; трын-трава *для каго, каму. Гэтая гаворка пра літаратуру ў падобным месцы – як трава ў пустыні... У прынцыпе яна нам абодвум да фені.* Л.Галубовіч. – *Але я магу не з'явіцца на цырымонію ўганаравання. Будзе скандал. – А мне да фені. Ды ніякага скандалу і не будзе...* Арлоў. *Ён апошнім часам б'ецца як рыба аб лёд, а вышэйшым кіраўнікам нібыта ўсё да фені: яны пачалі ўпотайкі займацца камерцыяй, будаваць катэджы.* Левановіч.

*ФЕНІКС* ● **ЯК (ЯК Б`ЫЦЦАМ) Ф`ЕНІКС З П`ОПЕЛУ (З ПР`ЫСКУ).** *Акал. Кніжн.* Нібы сімвал неўміручасці, вечнага абнаўлення, адраджэння. *[Вольны дух] як фенікс з попелаў узносіцца з канаў, на дно якіх яго спіхаюць цемраў зверы.* Купала. *Ды вось як быццам фенікс з прыску твар чарнавокі, чарнакосы і стройны гнуткі стан дзявочы цераз гадоў мінулых лёсы з'явіўся князю зноў на вочы.* Бітэль. *Жыццё няўмольна разбівае найлепшыя нашы надзеі, але яны бясследна не знікаюць і як фенікс з попелу адраджаюцца зноў.* Міклашэўскі.

*ФЕФАРУ* ● **ЗАДАВАЦЬ ФЕФАРУ** *каму.* Гл. задаваць.

*ФІБРАМІ* ● **УС`ІМІ Ф`ІБРАМІ ДУШ`Ы.** *Акал. Функц. не зам.* Вельмі моцна, страсна (ненавідзець, адчуваць, імкнуцца і пад.). **Сін**.: усімі сіламі душы. *Аксеня ўсімі фібрамі душы ненавідзіць фашыстаў.* Гурскі. *Ненавідзячы яго [следчага] усімі фібрамі душы, упэўненая, што гэта здзек з маёй любві, з майго раскаяння, я перакрывіла яго і высалапіла язык.* Карпаў.

*ФІГА* ● **НІ ФІГ`А.** *Акал. Праст. Груб. Неадабр.* Зусім нічога (няма, не разумець і пад.). **Сін**.: голаму за пазуху; дзірка ад абаранка; ні грана; ні сінь-пораху; ні халеры; ні храна; ні чорта; ні шыша. *[Людміла:] Ні фіга не разумею! Адкуль гэтыя дабавачныя зубцы — забі мяне гром!* Дзяленздзік. *Разетка і штэпсель. Думаеце, гэта я пра электрычнасць? Ні фіга.* Сцяпан.

**Ф`ІГА (К`УКІШ) У КІШ`ЭНІ.** *Мн. не ўжыв. Разм. Неадабр. У ролі розных чл. ск.* Баязлівае, скрытнае праяўленне незадавальнення чым-н., неадабрэння чаго-н., пагрозы каму-, чаму-н. *Вінаваты мы ўсе разам, што церпім такое становішча, што за справядлівасць ў нашай справе, за здаровую працоўную атмасферу, за якасць і ўзровень змагаемся нярэдка фігай у кішэні.* Гілевіч. *Я ведаў многіх таленавітых, разумных, ды палахлівых людзей, якія так і перабылі ўсё сваё жыццё з кукішам у кішэні...* Законнікаў. *Кампліменты*

*гаварылі яны з фігаю ў кішэні.* Крапіва.

**Ф`ІГА НА ТАЛ`ЕРЦЫ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Непрыемнасць для каго-н., прыхаваная ветлівасцю, далікатнасцю. *Вас цікавіць справа? — «Кіньце клапаціцца! Мо ці не пара вам ехаць падлячыцца?» Лёгкія здаровы, нічагуткі ў сэрцы... Маеце адно вы — фігу на талерцы.* Крапіва. *[Рымша:] А што каб пачаставаць цяпер той бульбай, якую Анішчук хацеў заараць... Гэта будзе для Анішчука і яго кампаніі нешта накшталт фігі на талерцы.* Гурскі.

*ФІГАВЫ* ● **ФІГАВЫ ЛІСТОК.** Гл. лісток.

*ФІГАЙ* ● **ФІГАЙ НОСА НЕ ДАСТАЦЬ** *у каго, каму.* Гл. дастаць.

*ФІГІ* ● **БЕЗ Ф`ІГІ НІ ДА Н`ОСА.** *Вык. Праст. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ганарысты, фанабэрысты; задавака, зазнайка. **Сін**.: крукам носа не дастаць *у каго, каму*; фігай носа не дастаць *у каго, каму*; шастом галавы не дастаць *у каго, каму. Такая цаца — без фігі ні да носа. Заняўшы кут, ён пазірае коса...* Бічэль-Загнетава. *Тады [пасля вайны] ён [Міхал] і распышэў. А сёння — не падступішся ўжо. Без фігі ні да носа, як у нас кажуць.* Пташнікаў. *А цябе, як вялікага пана і крануць нельга, без фігі ні да носа.* Машара.

*ФІГЛІ* ● **Ф`ІГЛІ-М`ІГЛІ.** *Адз. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Жарты, хітрыкі, спрытныя прыёмы для дасягнення чаго-н. *У нас патрабаванні строгія і без кампрамісаў. Сам разумееш, рабочы народ, без фігляў-мігляў.* Гаўрылкін. *Шчэпкін мусіў вярнуцца, зрабіць рукамі фіглі-міглі, і толькі тады яму заапладзіравалі.* Карпюк. *— Цяпер зноў Ахрэм Цітавіч... з табою хацеў разыграць. Я сама запрацівілася. Абрыдзелі ўжо гэтыя фіглі-міглі. — Абрыдзелі, Мілка, і мне.* Мыслівец.

*ФІГУ* ● **ВЫСТАЎЛЯЦЬ ФІГУ** *каму.* Гл. выстаўляць.

**ГЛЯДЗЕЦЬ У КНІГУ, А БАЧЫЦЬ ФІГУ.** Гл. глядзець.

**З'ЕСЦІ ФІГУ.** Гл. з'есці.

**ПАКАЗВАЦЬ ФІГУ Ў КІШЭНІ.** Гл. паказваць.

**ФІГУ З МАКАМ.** Гл. дулю.

**ФІГУ З МАСЛАМ.** Гл. дулю.

*ФІЛЬКАВА* ● **ФІЛЬКАВА ГРАМАТА.** Гл. грамата.

*ФІМІЯМ* ● **КУРЫЦЬ ФІМІЯМ** *каму.* Гл. курыць.

*ФІМІЯМУ* ● **КУРЭННЕ ФІМІЯМУ.** Гл. курэнне.

*ФІНДОС* ● **ФІНД`ОС (ХВІНД`ОС) ПАД Н`ОС** *каму. У знач. вык. Праст. Груб.* Зусім нічога не даць, не атрымаць. **Сін**.: дулю пад нос каму. *Ты да яго за работай, а ён табе, дамскі пол, фіндос пад нос...* Лынькоў. *— А чаго можа хацець генерал, у якога былі свае маёнткі і свае парабкі! Вядома чаго! Яму давай вайну да пераможнага канца. Ён хацеў бы*

*вярнуць адабраную ў яго і другіх паноў зямлю! Хацеў бы ізноў закілзаць селяніна і паганяць, як раней паганяў! — А хвіндос ім пад нос!* Хацкевіч. *— Памагай бог, руплівец! — Не ўжо, хвіндос пад нос богу твайму, — адразу ж азваўся Ягорка.* Масарэнка.

*ФІЦІ* ● **Ф`ІЦІ-М`ІЦІ.** *Нескл. У ролі розных чл. ск. Праст.* Грошы. *«А вучыцца паступіў? Мо ў акадэмію?» — «Эт, — кажа, — няхай той вучыцца, у каго галавы на карку няма. Я і без акадэміі пражыву. Абы ў кішэні фіці-міці былі».* Сіняўскі. *Агарод — тыя ж злашчасныя паперкі, тыя ж фіці-міці, за якімі мы ганяемся...* Ракітны.

*ФЛАГ* ● **ФЛАГ У РУКІ** *каму.* Гл. сцяг.

*ФОНД* ● **ЗАЛАТ`Ы Ф`ОНД** *чаго, чый. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Самае лепшае, самае каштоўнае, самае значнае. *Вершы Пімена Панчанкі ваеннага часу, самыя пранізлівыя, самыя адкрытыя, увайшлі ў залаты фонд усесаюзнай паэзіі.* Барадулін. *Казкі гэтыя шырока друкуюцца і ў нас у рэспубліцы, і перакладаюцца на іншыя мовы. Яны — залаты фонд нашай народнай класікі.* Якімовіч. *Такія, як Інфанцьеў, наш залаты фонд. На такіх раён трымаецца.* Асіпенка. *Мы часта, гаворачы пра свае кадры, кажам: «Залаты фонд». Дык вось, першым у спісе «залатога фонду» нашага калгаса стаіць прозвішча Паўла Канопліча.* «Полымя».

*ФОРМЕ* ● **ПА <УС`ЁЙ> Ф`ОРМЕ.** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Сапраўдны, тыповы, такі, як трэба. *Калі поп, то трэба, каб поп быў па ўсёй форме.* Колас. *Пакораныя развažлівасцю дачкі, Богдан і Багданіха згадзіліся. Аднак запатрабавалі, каб сватанне было па форме, як належыць.* Хацкевіч.

**У Ф`ОРМЕ.** У *знач. вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У такім стане, калі найбольш поўна праяўляюцца сілы, здольнасці, уменне каго-н. *[Зоя Антонаўна:] А чаму Барыс Мікалаевіч не аперыруе? [Галубовіч:] Не ў форме. Пасля п'янкі.* Крапіва. — А *вы ўсё такі ж! —Які? — насцеражыўся Аляксееў. — У форме, — сказаў Бонч-Бруевіч.* Гурскі. *Дырэктарскі шафёр ведаў сабе цану і быў заўсёды, як кажуць, у форме.* Кананові́ч.

*ФОРУ* ● **ДАВАЦЬ ФОРУ** *каму.* Гл. даваць.

*ФРАНТАХ* ● **НА ЎС`ІХ ФРАНТ`АХ.** *Акал. Разм.* Абсалютна ўсюды (быць, пасяваць і пад.). *Вось прыклад вам калгасніка героя, ён быў і ёсць герой на ўсіх франтах.* Чарот. *Свяшчэнны агонь.. натхняў яе [Эмілію] на барацьбу з усімі перашкодамі і на ўсіх франтах.* Маўр.

*ФРАНТЫ* ● **НА ДВ`А ФРАНТ`Ы.** *Акал. Функц. не зам.* У двух розных напрамках (дзейнічаць). *Героі рамана.. вядуць змаганне на два франты: з бандытамі, што хаваюцца ў лесе, і са спадчынай цяжкага мінулага за вызваленне чалавека ад змрочнай сілы ўласніцтва.*

Шкраба. *Бацька ўвіхаўся на два франты: паваліўшы касою траву, скідваў яе ахапкамі ўбок, на пакуль што не чапаны загон, і хапаўся за заступ.* Ракітны.

*ФРОНТ* ● Вынягнуцца, стаяць **ВА ФР`ОНТ (ФР`УНТ).** *Устар. Акал. Функц. не зам.* Навыцяжку, ссунуўшы пяткі ног і выцягнуўшы рукі па швах. *Сымон выцягнуўся ва фронт.* Губарэвіч. *А то яшчэ генерал мне насустрач, старэнькі такі... Ну, я пад казырок яму, а ён, не разгледзеўшы добра, сляпы, як відаць, стаў ва фрунт...* Лынькоў. *Ён, відаць, быў вялікай шышкай, бо пры яго з'яўленні абодва надзорцы выцягнуліся «ва фрунт» і замёрлі.* Машара.

*ФРОНТАМ* ● **АДЗ`ІНЫМ ФР`ОНТАМ.** *Акал. Функц. не зам.* Вельмі дружна, згуртавана (дзейнічаць, выступаць і пад.). **Сін**.: усім фронтам. *Позніцца вясна. Трэба падрыхтавацца так, каб адзіным фронтам выступіць, каб усё было напагатове. Падсохне зямля — раз і пасеем!* Бялевіч. *Амерыканцы помняць добра той час, калі Савецкі Саюз і ЗША выступалі адзіным фронтам супраць фашызму, нашы і амерыканскія салдаты ваявалі плячо ў плячо.* Сачанка.

**УС`ІМ ФР`ОНТАМ.** *Акал. Функц. не зам.* Вельмі дружна, згуртавана (дзейнічаць, націскаць і пад.). **Сін**.: адзіным фронтам. *Прабаваў Хвядос адкаснуцца ад.. [кварты і закускі], але на яго зноў націснулі ўсім фронтам.* Калюга. *[Рымша:] Трэба, гаворыць, мець пачуццё локця. Неабходна ўсім фронтам весці наступленне на стары свет!..* Гурскі.

**ШЫР`ОКІМ ФР`ОНТАМ.** *Акал. Функц. не зам.* З вялікім ахопам, размахам, вельмі шырока (рабіць што-н.). *Зелянок загадаў, каб заўтра ж мы пачалі сяўбу шырокім фронтам.* Савіцкі. — *Трэба ж некаму рабіць і гэту работу. Аднаўляць гаспадарку мы павінны шырокім фронтам. Каб ніякія механізмы не прастойвалі, — вясёлы, радасны настрой ахапіў Акапяна.* Левановіч. *Столінскі раён непазнавальна зменьваецца на вачах. Шырокім фронтам мяркуем пачаць меліярацыю.* Марчук. *Шмат важных спраў у полі: завяршаецца сяўба і пасадка агароднінных культур, шырокім фронтам ідзе догляд пасеваў.* «Звязда».

*ФРУНТ* ● **ВА ФРУНТ.** Гл. фронт.

ФУ ● **Ф`У ТЫ <Н`У-ТЫ>.** *Выкл. Праст. Часта іран.* Вокліч здзіўлення, захаплення, раздражнення і пад. **Сін**.: авохці мне; бляха-муха; ёлкі зялёныя; ёлкі-маталкі; ёлкі-палкі; ё-маё; халера ясная; цьфу ты нячыстая сіла; цьфу ты <чорт>; чорт бы яго ўзяў; чорт вазьмі; чорт ведае што такое. *[Ваня:] А мо падкінем да клуба?.. На ўласным матоцы... Зусім новенькім... Толькі-толькі з канвеера! Выкупіў сёння. [Алена:] Фу ты ну-ты!* Губарэвіч. *Фу ты ну-ты... Надалей будзеш*

*ведаць, як хадзіць па балоце... Пераканаўся!* Гамолка. *[Зарудны:] Што-небудзь здарылася з Любай, з дзецьмі?.. [Іван:] Не, Пётр. [Зарудны:] Фу ты... напалохаў. Я ўжо дык падумаў... Сядай.* Маўзон. — *А цяпер з бусламі будзем. Святая птушка... Хай клякоча над нашай хатай. — Фу ты! Святая... Яна ж увесь двор запаскудзіць...* Дудараў.

*ФУНДАМЕНТ* ● **ЗАКЛАДВАЕЦЦА ФУНДАМЕНТ** *чаго.* Гл. асновы.

**ЗАКЛАДВАЦЬ ФУНДАМЕНТ** *чаго.* Гл. закладваць.

*ФУНДАМЕНТУ* ● **ЗАКЛАДКА ФУНДАМЕНТУ** *чаго.* Гл. закладка.

*ФУНТ* ● **НЕ Ф`УНТ ІЗ`ЮМУ** <*каму*>. *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета ці дзейн.-займ. *гэта.* Не дробязь, не пусцяковіна; справа сур'ёзная. **Сін.**: не жарты (у 1 знач.); не жук на палачцы; не кот наплакаў (у 2 знач.); не хаханькі (у 1 знач.). *– А вы што робіце? – Што я раблю? Ого-го! Важную дзяржаўную справу, пане мой! Сталыпінскія хутарочкі... Гэта не фунт ізюму...* Гарэцкі. *У нас кожныя два тыдні па трыста парасят купляюць. Круглы год! Гэта вам не фунт ізюму.* Місько. *Што ж вы думаеце, што я за кавалак сала буду сваю галаву падстаўляць? З турмы чалавека вызваліць – гэта не фунт ізюму.* Арабей. *Творчасць – яна вам не фунт ізюму, – вымучыць гэтак, што падаеш з ног.* Каржанеўская.

**ПАКАЗАЦЬ ПАЧЫМ ФУНТ ЛІХА** *каму.* Гл. паказаць.

<u>Ведаць, знаць, пазнаць,</u> **ПАЧ`ЫМ Ф`УНТ Л`ІХА.** *У знач. дадан. ск. Разм.* (Ведаць) якія бываюць цяжкасці, выпрабаванні ў жыцці. **Сін.**: *пазнаць,* дзе ракі зімуюць (у 1 знач.). *Сама Аўдоля хапіла гора нямала. Ведае, пачым фунт ліха.* Крапіва. *Яму [старому Ота] таксама двойчы даводзілася прыходзіць з турмы, і ён ведаў, пачым фунт ліха.* Сабаленка. *Во паспытала б партызанскага хлеба, пабадзялася б па балотах, пержыла б хоць адну блакаду, тады б знала, пачым фунт ліха.* Сіпакоў. *Ну, думаю, нарабіў бяды, тут табе, галубчык, не гаўптвахтай пахне, пазнаеш, пачым фунт ліха.* Лынькоў.

*ФУТАРАЛЕ* ● **У ФУТАР`АЛЕ (У ФУТЛ`ЯРЫ).** *Азн. Функц. не зам. Неадабр. Ужыв. ў дачыненні да чалавека.* Замкнёны ў коле вузкіх, абывацельскіх інтарэсаў, далёкі ад жыцця і ўсяго новага. *Ды я ж пра тых — «у футарале», што ў промнях сонца яснага баяцца ценю ўласнага.* Крапіва. *[Прыстром:] Ну, вось гляньце: не хацеў, каб лічылі кабінетным пацуком — спецам, адміністратарам у футарале; захацеў, каб ведалі ўсе рабочыя, што і як робіцца на ўчастку, каб рабілася ўсё са згоды РКК, прафсаюза, і вось вам вынік...* Шынклер.

*ФУТРЫ* ● **НА Р`ЫБІНЫМ Ф`УТРЫ**. *Азн. і вык. Разм. Жарт.* Які прапускае холад, дрэнна саграваe. Пра верхняе адзенне. **Сін.**: падбіты

ветрам (у 1 знач.); падшыты ветрам. *Я ў сваім «на рыбіным футры» шынелку пачынаў ужо зябнуць на снезе.* Быкаў. *Вельмі патрэбны нам медыкаменты, цукар альбо сахарын. У лесе ж жывём, халады сабачыя, а паліто – на рыбіным футры, ні валёнак, ні цёплых шапак. Раненым хоць бы чаю з сахарам даць.* Новікаў. *Марыя-Тэрэза гаварыла, што ў Расіі можа быць холадна, але, калі шчыра, мы не ўяўлялі, што такое мароз. Апранулі курткі, як сказалі вашы дзеці, на рыбіным футры.* «Настаўн. газ.»

Х

*ХАВАЙ* ● **ХАВАЙ БОЖА.** Гл. божа.

*ХАВАЦЦА* ● **ХАВ`АЦЦА ЗА ПЛ`ЕЧЫ (ЗА СП`ІНУ)** *чые, каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ухіляючыся ад чаго-н., перакладваць адказнасць на каго-н. *[Хведзька] у атрадзе быў не чужы і не лішні, небяспечных спраў не цураўся, ні за чые плечы не хаваўся.* Лужанін. **(СХАВАЦЦА) ЗА ПЛЕЧЫ (ЗА СПІНУ)** *чые, каго. Зак. Свой наступ на Гальваса ён [Блецька] вымеркаваў з халоднай развагай і схаваўся за Амеліны плечы.* Чорны. *Рабочыя зразумелі, што мінуў час, калі можна было, схаваўшыся за спіну таварыша, працаваць абы-як.* «Звязда».

**ХАВ`АЦЦА ЗА ЧУЖ`ЫЯ СП`ІНЫ (СП`ІНУ).** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ухіляючыся ад чаго-н., перакладваць адказнасць на іншых. — *Ты ўжо мудры! Навучыўся за чужыя спіны хавацца! — Дзе я хаваўся за чужыя спіны?* Быкаў. *Дзяніс не любіў хавацца ў жыцці за чужую спіну, яму было сорамна, каб нехта прасіў за яго.* Дзятлаў. *Былі ў Мышчыцах і такія, што спагадліва падтаквалі, згаджаліся, а калі даходзіла справа да подпісу, то за чужыя спіны хаваліся.* Аношкін. *Жыў як жылося. За чужыя спіны не хаваўся, другім пад ногі камення не кідаў, злосць у душы не трымаў доўга.* Дудараў. **СХАВАЦЦА ЗА ЧУЖЫЯ СПІНЫ (СПІНУ).** *Зак.*

*ХАВАЦЬ* ● **ХАВ`АЦЬ В`ОЧЫ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пазбягаць глядзець адкрыта, прама на каго-н. *Кожны хаваў вочы, калі сустракаўся з яго ным непрытомным поглядам.* Самуйлёнак. *Наўкол усе маўчаць, хаваюць вочы.* Корбан. *Наконт прафесіянальнага сораму перад гледачамі мы, відаць, і заўтра не застанёмся абыдзенымі, будуць прычыны хаваць вочы.* «ЛіМ».

**ХАВ`АЦЬ ГАЛАВ`У Ў ПЯС`ОК**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Палохаючыся, ухіляцца ад чаго-н. **Сін.**: азірацца на кусты; глядзець у кусты. *Давайце ж не будзем хаваць галаву ў пясок — нашым юнакам і дзяўчынкам ведаў [пра маральна-*

*палавое выхаванне] катастрафічна не хапае.* «Настаўн. газ.» *Тыя палітыкі, якія агітуюць не ўдзельнічаць у выбарах пры любых саступках існуючага рэжыму, нагадваюць страуса, які перад небяспекай хавае галаву ў пясок.* «Нар. воля».

**ХАВАЦЬ КАМЕНЬ ЗА ПАЗУХАЙ.** Гл. насіць.

**ХАВ\`АЦЬ КАНЦ\`Ы <У ВАД\`У>.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Спрытна знішчаць ці ўтойваць тое, што можа быць доказам віны. **Сін**.: замятаць сляды. *Відаць, нам зноў не пашанцавала ў вашай кватэры, ласкавая пані. Відаць, вы ўмееце добра канцы ў ваду хаваць.* Машара. *Калі хочаш жыць, давай разам думаць, як з бяды выбавіцца. Трэба хаваць канцы...* Ваданосаў. *Якая б несправядлівасць ні чынілася на свеце, як бы ні хавалі канцы ў ваду злачынцы, усё роўна з часам выйдзе ўсё наверх.* Шкраба. **СХАВАЦЬ КАНЦЫ <У ВАДУ>.** *Зак. Каб схаваць канцы ў ваду, прынялі Саламонава рашэнне: перадаць завод на баланс калгаса «Прагрэс».* Дуброўскі. *На душы ў яго [Максіма] было цэлае пекла. Злосць на таго, хто ссек дуб, хто, як сумыслу, як на здзек яму, зрабіў пакражу, ніколечкі не клапоцячыся схаваць канцы; далей — страх перад ляснічым, страх за страту кавалка хлеба.* Колас.

*ХАДЖЭННЕ* ● **ХАДЖ\`ЭННЕ НА ГАЛАВ\`Е (ГАЛ\`ОВАХ).** *Мн. не ўжыв. Дзейн. і дап. Разм. Неадабр.* Бурнае свавольства, гарэзлівасць (звычайна з боку дзяцей). *Па-мойму, «хаджэнне на галовах» на ўроках павінен, пры неабходнасці скідвання назапашанай энергіі, «арганізаваць» сам настаўнік.* Цыпіс.

**ХАДЖЭННЕ ПА ПАКУТАХ.** Гл. блуканне.

*ХАДЗІЦЬ* ● **ДАЛЁКА ХАДЗІЦЬ НЕ ТРЭБА** *за чым.* Гл. трэба.

**ПА ГАР\`Ы ХАДЗ\`ІЦЬ І С\`ОНЦА НЕ Б\`АЧЫЦЬ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не заўважаць відавочнага. — *Пахвальна, што ты гэта ведаеш, — сказаў Паддубны, – але гэта яшчэ не ўсё. Гэта ўсё роўна, што хадзіць па гары і сонца не бачыць.* Пестрак. *На двары галасіла жанчына і кляла некага апошнімі словамі: — А каб вы выхваралі ды выстагналі! А каб вы па гары хадзілі і сонца не бачылі!..* С.Александровіч. — *Ат, калі табе ўж[о] так надта хочацца бачыць пана ва мне, хай буду Вішпінгам. — Дай ты веры, Лаўрэн, ты ім і ёсць! Шчэ і сумняваешся! Ха! Па гары ходзіш і сонца не бачыш, дальбог!* Карпюк. *Як жа мне не ведаць, што ў двары робіцца, калі я сам з двара? Гэта было б усё роўна, што па гары хадзіць ды сонца не бачыць.* Гарун.

**ХАДЗ\`ІЦЬ Г\`ОГАЛЕМ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Мець бравы, незалежны выгляд, трымацца зухавата. **Сін**.:

хадзіць козырам. *[Ермашоў:] Майце на ўвазе: калі ўбачу ў каго з вас у вачах сум — ласкі маёй не чакай!.. Тут мы адзін на адзін яшчэ можам паўздыхаць, а пры байцах — хадзі гогалем!* Губарэвіч. *[Некаторыя свяшчэннаслужыцелі] гогалямі ходзяць у нястомных барацьбітах з «дэхрысціянізатарамі», гэта значыць прыхільнікамі народнага ладу.* Бажко.

**ХАДЗ`ІЦЬ КАЛ`Я П`ОСУДУ (ПАС`УДЫ) Ч`ЫСТА.** *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Есці, піць з апетытам і да канца ўсё, што даюць. У *нас.. каля посуду чыста ходзяць.* Янкоўскі. *Сямён Бярозка еў і не канчаў, што яму налівалі ці накладалі на талерку. Вера Міхайлаўна, відаць, асвядомленая пра яго ад свайго мужа, падахвочвала хлопца «хадзіць каля пасуды чыста».* Паслядовіч.

**ХАДЗ`ІЦЬ К`ОЗЫРАМ.** *Незак. Прост.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Мець бравы, незалежны выгляд, трымацца зухавата. **Сін**.: хадзіць гогалем. *А пан Зыгмусь козырам ходзіць і не прапускае здарэння памуштраваць часамі сваю гаспадыню.* Колас. *[Сямён:] Дзядзька Антон, чаго ты козырам ходзіш? [Старэйшы сват:] Бо цябе не баюся.* Гарбацэвіч.

**ХАДЗ`ІЦЬ НА ГАЛАВ`Е (НА ГАЛ`ОВАХ).** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі свавольніцць, дурэць; рабіць, што захочацца. Звычайна пра дзяцей. *Пан Глынка, шустры і вяртлявы, хадзіць гатоў на галаве, бо тут так вольна, так цікава, што толькі тут ён і жыве.* Колас. *[Надзя:] Дзе ж вас, такога пестуна, будзе хто ўшчуваць. Хоць на галаве хадзіце, вам ніхто слова не скажа.* Крапіва. *Прыбяжыць [Марыся] дадому, а дзеці ўжо на галовах ходзяць. А іх жа трое, і адзін пад адзін.* Гроднеў. *Праўда, можа, таму, што яна [класная настаўніца] не крычала, што не ўмела крычаць на іх ніколі, можа таму на яе ўроках яны і хадзілі на галовах.* Васілевіч.

**ХАДЗ`ІЦЬ НА ПАВАДК`У** *ў каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Слепа падпарадкоўвацца чыёй-н. волі, дзейнічаць несамастойна. **Сін**.: ісці на павадку *ў каго, каго, чыім. Бацькі ў Зосітэ хоць і не так ходзяць на павадку ў пана клебонаса, як бацькі Анежкі, але і ў іх яшчэ моцна забіты галовы рознымі набажэнствамі.* Броўка. *[Алтар:] Я, калі захачу, то вы ў мяне будзеце на павадку хадзіць! Я яшчэ вазьму вас у свае рукі так, што вы будзеце пішчаць.* Чарнышэвіч.

**ХАДЗ`ІЦЬ НА П`АЛЬЧЫКАХ** *перад кім. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Далікатна абыходзіцца з кім-н., паддобрывацца да каго-н. **Сін**.: віляць хвастом (у 1 знач.); гнуцца ў дугу <перад кім>; гнуцца ў тры пагібелі *перад кім*; гнуць спіну *перад кім*; ламаць шапку *перад кім*; лізаць боты *каму,* падаць лістам *перад*

*кім*; падпускаць лёстачкі *каму*; поўзаць на каленях *перад кім*; рассыпацца драбней маку *перад кім*; рассыпацца <дробным> макам *перад кім*; слацца лістам *перад кім*; станавіцца на заднія лапкі *перад кім*; хадзіць на задніх лапках *перад кім. Такую [дзяўчыну] можна сватаць самаму натурыстаму хлопцу: будзе хадзіць перад мужам на пальчыках.* Пальчэўскі. *[Ляхоўскі] прывучыў іх, дачку і матку, перш чым зайсці ў яго кабінет, стукаць у дзверы, і наогул старацца паменш гэтага рабіць: калі ён працуе, усе павінны хадзіць на пальчыках.* Дамашэвіч. *Вечна свет на тых глядзеў з павагай, перад тым на пальчыках хадзіў, хто яго выводзіў з раўнавагі, хто яму, згараючы, свяціў.* Свірка.

**ХАДЗ`ІЦЬ ПА АДН`ОЙ МАСН`ІЧЫНЕ** *ў каго. Незак. Разм. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дрыжаць перад кім-н., без адгаворак падпарадкоўваючыся ва ўсім. **Сін**.: на цырлах *перад кім* (у 1 знач.); скакаць пад дудку *чыю, каго*; хадзіць па нітачцы *перад кім, у каго*; хадзіць па струнцы *перад кім, у каго. «Ну і характар, — падзівілася Хрысціна. — Сібірскі! У такой муж будзе хадзіць па адной маснічыне ды яшчэ дзякаваць богу за жончыну дабрату».* Асіпенка. *Цётка за свой век пажыла ў розных хатах. Выйшла замуж — у свякрухі гады тры па адной маснічыне хадзіла.* Сяркоў. — *Па адной маснічыне матка ў мяне ходзіць, — скончыўшы смяяцца і выцершы рот рукавом кашулі, пахваліўся Мікіта. — Што ні скажу, усё слухае.* Дайнека.

**ХАДЗ`ІЦЬ ПА КУСК`АХ.** *Незак. Устар. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Збіраць міласціну, жабраваць, пабірацца. *Бацька ж, бывала, такі жартаўнік, такі вясёлы, такі бядак быў. Усё па кусках хадзіў. А яе, відаць, багацце сапсавала...* Сіпакоў.

**ХАДЗ`ІЦЬ ПА ЛЯЗ`Е.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рызыкаваць жыццём, быць у небяспецы. — *Дык ты і маці, і мяне на шыбеніцу адправіць хочаш, га? Пра нас падумала?! Па лязе хадзіць захацелася?.. — А вы, тата, з Яўсеем-нябожчыкам хіба не па лязе хадзілі, калі акружэнцаў з Аўдолінай хаты ў лес адводзілі?* Паўлаў. *А што ж расказваць?.. Ну, жыла, як у турме, кожны дзень хадзіла па лязе... Страціла ўсе надзеі, што зноў сустрэнуся з вамі.* Лынькоў.

**ХАДЗ`ІЦЬ ПА Н`ІТАЧЦЫ** *перад кім, у каго. Незак. Разм. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дрыжаць перад кім-н., без адгаворак падпарадкоўваючыся ва ўсім. **Сін**.: на цырлах *перад кім* (у 1 знач.); скакаць пад дудку *чыю, каго*; хадзіць па адной маснічыне *ў каго*; хадзіць па струнцы *перад кім, у каго. Як толькі пераедзем германскую граніцу, я за Шыманскага вазьмуся. Будзе ён у мяне па*

*нітачцы хадзіць.* Гурскі. У *Параскі, хто не робіць, таму нічога не даюць. Ужо што на яе толькі не прыдумвалі: яна і такая, яна і гэтакая, а яна хоць бы што. То цяпер мужчыны і бабы перад ёю па нітачцы ходзяць.* Лобан. *Сам жа [Алесь] быў напагатове, хадзіў, можна сказаць, па нітачцы, каб зноў з чым-небудзь не трапіць Пятру Пятровічу пад руку.* Лецка.

**ХАДЗ`ІЦЬ ПА РУК`АХ.** *Незак. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. неадуш. прадмета. Перадавацца ад аднаго да другога, распаўсюджвацца. Пра кнігі, газеты, лістоўкі і пад. *Кожны дзень на школьнай дошцы нехта пісаў нашы прозвішчы, нехта складаў недарэчныя вершыкі, якія хадзілі па руках і не раз даводзілі Надзю да слез.* Асіпенка. *Нелегальныя выданні амаль свабодна хадзілі па руках.* Кісялёў. **ПАЙСЦІ ПА РУКАХ.** *Зак. Ужо на трэці ці чацвёрты дзень пасля паяўлення прыёмніка нашы зводкі пайшлі па руках.* Навуменка. *Газета пайшла па руках. Дзяўчаты разглядалі здымак і, мабыць, каторыя зайздросцілі, што на ім не яны, а Марына.* Сабаленка.

**2**. *Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Уступаць у любоўныя зносіны то з адным, то з другім мужчынам. Пра жанчыну. *Хто ведае, што было б з тою шляхцянкаю, што адзін час нават па руках хадзіла?* Бажко. **ПАЙСЦІ ПА РУКАХ.** *Зак. [Каравай:] Адпускаеце яе з вачэй цяпер... Можа па руках пайсці... без нагляду...* Макаёнак. *Глядзі ты, а была ж неблагой жанчынай... Ды во — усё кінула, усё згубіла, за адзін год згулялася. Па руках баба пайшла.* Гігевіч.

**ХАДЗ`ІЦЬ ПА СТР`УНЦЫ** *перад кім, у каго. Незак. Разм. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дрыжаць перад кім-н., без адгаворак падпарадкоўваючыся ва ўсім. **Сін**.: на цырлах *перад кім* (у 1 знач.); скакаць пад дудку *чыю, каго*; хадзіць па адной маснічыне *ў каго*; хадзіць па нітачцы *перад кім, у каго. «Усе ў мяне будуць па струнцы хадзіць!» — марыў генерал.* Гурскі. *Сыны, дочкі, унукі і праўнукі хадзілі па струнцы, разам садзіліся за стол і, пад'еўшы, дзякавалі бабцы, хоць яна даўно не кухарыла.* Лужанін. *Ну і штукар! Быў бы маладзейшым — хутка б я абламаў цябе. Па струнцы хадзіў бы.* Калодзежны.

**ХАДЗ`ІЦЬ (СТА`ЯЦЬ) НА З`АДНІХ Л`АПКАХ** *перад кім. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Лісліва дагаджаць каму-н., падхалімнічаць. **Сін**.: віляць хвастом (у 1 знач.); гнуцца ў тры пагібелі *перад кім*; гнуць спіну *перад кім*; ламаць шапку *перад кім*; лізаць боты *каму*; падаць лістам *перад кім*; падпускаць лёстачкі *каму*; поўзаць на каленях *перад кім*; рассыпацца драбней маку *перад кім*; рассыпацца <дробным> макам *перад кім*; слацца лістам *перад кім*;

станавіцца на заднія лапкі *перад кім*; хадзіць на пальчыках *перад кім*. *«Ага, спужаўся высокага начальства, пачнеш на задніх лапках перад ім хадзіць...», — лезлі ў галаву думкі.* Лынькоў. *Як ты ні старайся хадзіць на задніх лапках перад панамі і іх паслугачамі — гэтым не дагодзіш, калі раней ваду замуціў або ненарокам на лапу наступіў.* Машара. *Папы і ксяндзы хадзілі перад урадам на задніх лапках, падтрымлівалі наваленыя на мужыка падаткі.* Карпюк. *[Паны] перад Пілсудскім на задніх лапках стаялі...* Бядуля.

**ХАДЗ`ІЦЬ Х`ОДЫРАМ (ХАДУН`ОМ)**. *Незак. Разм.* **1**. Часцей ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Моцна хістацца, калыхацца. *Ходырам хадзіла падлога, і тупат ног заглушаў хліпанне гармоніка.* Кудравец. *Вагоны дабягаюць да месца, дзе тол парваў рэйку, з'язджаюць убок, адзін за другім знікаюць са светлага фону неба, валяцца, толькі стогне і хадуном ходзіць зямля.* Карпюк.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета ці зборн. знач. Прыходзіць у рух, бурна праяўляцца. Пра справы, падзеі і пад. *Ходзіць ходырам свет цэлы, смела ў бітву йдзе нясмелы, ў бой за лепшы час.* Купала. *Вось дык гора, вось дык гора! «Адпусцілі б лепш у горад, працы там заўсёды шмат. Я знайду сабе занятак. Што мне тыя інтэрнаты? Я ўцякаў не ў інтэрнат!» Думкі ходырам хадзілі...* А.Александровіч. *Ганька адчуўшы міжвольную палёгку, упрыскок падаецца да свае «камчаткі». «Камчатка» ходзіць ходырам!* Васілевіч.

*ХАДЗЯЧАЯ* • **ХАДЗЯЧАЯ ГАЗЕТА.** Гл. газета.

*ХАДЗЯЧАЯ* • **ХАДЗЯЧАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ.** Гл. энцыклапедыя.

*ХАДЗЯЧЫ* • **ХАДЗЯЧЫ АНЕКДОТ.** Гл. анекдот.

*ХАДУ* • **НА ХАД`У.** *Акал. Функц. не зам.* **1**. Мімаходам, адначасова з другімі заняткамі (рабіць што-н.). **Сін**.: на бягу (у 1 знач.). *[Кашын] ведаў, што галоўны інжынер ухіляецца ад рашэнняў на хаду.* Карпаў. *Не падрыхтаванасць да размовы выклікае нярэдка патрэбу на хаду падбіраць найбольш дакладныя і значныя ў камунікатыўных адносінах моўныя адзінкі, папраўляць папярэдне сказанае.* Каўрус.

**2**. Адразу ж, тут жа (рабіць што-н.). **Сін**.: з ходу (у 2 знач.); на ляту. *Гісторыю прачытаў у класе між урокамі, а хіміі на хаду не асіліш.* Пальчэўскі. — *Годзе ўжо, годзе, таварышы! — на хаду перабудаваўся Шалухо. — Ну, вінават. Ніяк з вамі нельга, каб па-свойску, па-людску, а ўсё на афіцыяльнай назе. Спявайце сабе, што хочаце...* Брыль.

**3**. Не выключаючыся поўнасцю з якой-н. справы; не спыняючы чаго-н. (рабіць). *[Сухадольскі:] Змена канструкцыі на хаду, калі машына знаходзіцца ў масавай вытворчасці, справа вельмі складаная.* Крапіва.

**НА ХАДУ ПАДНОСКІ АДРЫВАЕ.** Гл. адрывае.

**СПАЦЬ НА ХАДУ.** Гл. спаць.

**У ХАД`У.** У *знач. вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. У шырокім ужыванні, карыстанні, вельмі распаўсюджаны. *Спачатку Клім дзівіўся, як усё хутка ў дарожнікаў атрымалася, колькі тэхнікі ўсякай. Гэта ж каб даўней, калі ў хаду толькі падводы былі, то хапіла б усёй акрузе, і не адно лета...* Місько. — *Хімія цяпер у хаду,* — *заўважыў Васіль.* — *Прыдумалі на сваю галаву.* Карамазаў.

*ХАДУН* ● **НІ ХАД`УН <І> НІ СЯД`УН**. *Звычайна адз. Вык. Разм.* Хворы, маларухавы, слабенькі чалавек. – *Як пачуваешся, княжа?..* – *Як кажа мой слуга, ні хадун і ні сядун,* – *уздыхнуў той.* – *Хвораму і на залатым ложку кепска.* Далідовіч. [*Федароўскі*, с. 48: ні хадун ні сядун – ‘недарэка, безуладны’; *Янкоўскі*, с. 375: ні хадун ні сядун – ‘хворы (чалавек)’.]

*ХАДУНОМ* ● **ЗАХАДЗІЦЬ ХАДУНОМ.** Гл. захадзіць.

**ХАДЗІЦЬ ХАДУНОМ.** Гл. хадзіць.

*ХАДЫ* ● Ведаць, знаць, прадбачыць **<УС`Е> ХАД`Ы (Х`ОДЫ) І В`ЫХАДЫ.** *Акал. Разм.* (Ведаць) вельмі добра, дасканала, як дзейнічаць у любой сітуацыі. Пра бывалага чалавека. **Сін**.: *ведаць,* дзе ракі зімуюць. *Пятнаццаць рублёў ён вытаргаваў з такім умельствам, гэтак спрытна прадбачыў усе хады і выхады, што Хурс не мог нацешыцца з Фартушніцкага таленту.* Чорны. — *Мы згодны, няхай адзін пойдзе, хоць бы я сабе.* — *Ідзі, ідзі ты!.. Трохі пасядзеў, дык ведае ходы і выхады,* — *пажартавалі з яго.* Мурашка. *[Стары рыбак:] Калі, не дай бог, што здарыцца, дык не бяры ты, браток, удавы. Ведае яна, зараза, усе хады і выхады!.. Бяры лепш зноў маладую.* Брыль.

*ХАЙ* ● **ХАЙ БОГ КРЫЕ.** Гл. бог.

**ХАЙ САРОЧКА НЕ ЧАПАЕ** *каго.* Гл. сарочка.

*ХАЙЛО* ● **ЗАТКНІ ХАЙЛО!** Гл. заткні.

*ХАЛАДКОМ* ● **З ХАЛАДК`ОМ.** *Акал. Разм. Неадабр.* Не спяшаючыся, без руплівасці (рабіць што-н.). **Сін**.: з прахаладай. *Кепска працуеце, таварыш палкоўнік. Вам даверылі важнейшую справу — разведку, лёс тысяч людзей, а вы, відаць, не цэніце гэта. Без агеньчыка, з халадком працуеце.* Мележ. *[Салаўёў] заўважыў, што некаторых яго работнікаў высокія працэнты супакоілі, размагніцілі, і працаваць яны пачалі з халадком.* Шахавец.

*ХАЛЕРА* ● **АДН`А ХАЛ`ЕРА.** У *безас. ужыв. Праст. Незадав.* Абсалютна аднолькава, без розніцы, не мае значэння для каго-н. **Сін**.: абы дзень да вечара *каму* (у 2 знач.); адзін хрэн *каму*; адзін чорт <*каму, для*

*каго*>; адна трасца <*каму*>; адно ліха; і гора мала *каму*; і не шум баравы *каму*; ні горача ні холадна *каму ад чаго*; усё адно (у 2 знач.); усё роўна (у 4 знач.); хоць бы хны (у 3 знач.); хоць бы што (у 3 знач.); хоць воўк траву еш; хоць патоп; хоць трава не расці <*каму*>; што з гусі вада *з каго, каму*; як з гусака вада *з каго*. — *Што твая Дума, што маніфест, адна халера! — выкрыкнуў нехта з месца.* Арабей. — *А якая нам розніца, у якім лагеры быць? Адна халера! — раздражнена вымавіў танкіст.* Кудраўцаў.

**НІ`ЯКАЯ ХАЛ`ЕРА НЕ БЯР`Э (НЕ В`ОЗЬМЕ)** *каго. У безас. ужыв. Праст.* Абсалютна нічога не здараецца, не робіцца з кім-н., не шкодзіць каму-н. **Сін**.: кадук не бярэ *каго*; ліха не бярэ *каго*; ніякае ліха не бярэ *каго*; ніякая трасца не бярэ *каго*; ніякі чорт не бярэ *каго*; халера не бярэ *каго*; хвароба не бярэ *каго*; чорт не бярэ *каго*. *Людзі і крадуць, і жонак з дзецьмі кідаюць, ды ўсё іх ніякая халера не бярэ.* Марчук. *[Віктар:] «Капут, — кажа, — Валодзьку. Заблытаўся Валодзька». Я кажу: ніякая халера цябе не возьме. А ён раптам быццам цвярозы стаў.* Васілеўскі.

**ХАЛ`ЕРА З `ІМ (З ТАБ`ОЙ, З `ЁЙ, З В`АМІ, З `ІМІ).** *Выкл. Праст.* Няхай будзе так, можна пакінуць без увагі. Выказванне згоды, прымірэння, уступкі і пад. **Сін**.: алах з табой; бог з табой; кадук з ім; ліха з ім; ліха яго бяры; трасца яго бяры; халера яго бяры; хвароба з ім; хрэн з ім; чорт з ім; чорт яго бяры. —*Больш, мусіць, не дадуць цягаць са складоў... —Ну і не трэба, халера з імі, — цвыркнуў Косцік слінаю цераз зубы.* Арабей. *Плакалі, пэўна, твае бычкі, таварыш Кунцэвіч... Ну і халера з імі — трэба ж выручаць... Мусіць, прыпякло, калі просяць.* Блакіт.

**ХАЛ`ЕРА НА ЯГ`О (НА ЦЯБ`Е, НА Я`Е, НА `ІХ, НА В`АС).** *Выкл. Праст.* Выказванне абурэння, злосці, гневу і пад. **Сін**.: каб на яго ліха; кадук на яго; кадук яго вазьмі; ліха матары <*чыёй*>; ліха на яго; ліха яго галаве; трасца яго галаве; трасца яго матары; трасца яму ў бок; хвароба на яго; хрэн у вочы *каму*; чэмер на яго галаву. *А ўрэшце — згарыць няхай ён са сваёй трохрублёўкаю. Адно што от плёткі распускае, халера на яго.* Чорны. *Не валялася нідзе ні трэсачкі, ні галінкі. — Акуратны, халера на цябе... — прамармытаў Міканор.* Кажадуб. *[Кандыдат:] Ды і рэдка ходзяць аўтобусы. Ну і парадачкі, халера на іх.* Дзятлаў.

**ХАЛ`ЕРА НЕ БЯР`Э (НЕ В`ОЗЬМЕ)** *каго. У безас. ужыв. Праст.* Нічога не здараецца, не робіцца з кім-н., не шкодзіць каму-н. **Сін**.: кадук не бярэ *каго*; ліха не бярэ *каго*; ніякае ліха не бярэ *каго*; ніякая трасца не бярэ *каго*; ніякая халера не бярэ *каго*; ніякі чорт не бярэ *каго*; хвароба не бярэ *каго*; чорт не бярэ *каго*. — *І так наш поп Іван*

*Шпак будзе ўжо атрымліваць заработак ад паноў... — Ён яго і раней атрымліваў, халера яго не брала, калі памкнуўся тады ісці ў лес з крыжам ратаваць графа.* Пестрак. — *У людзей гора, а ты гаворыш,.. — Халера іх не возьме. Змітрык ужо ладны арыштанцюга. А малая неяк выкачаецца.* Мыслівец. *Пасля вайны, як вы яшчэ меншыя былі, я ўспаруся пасярод ночы ды пяшком у Ганцавічы, на базар, з кошыкам яек. Босая. І халера не ўзяла.* Гардзей.

**ХАЛ`ЕРА Н`ОСІЦЬ** *каго дзе. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Хто-н. недарэчы, не ў пару ходзіць, бадзяецца дзе-н. **Сін**.: каланіца носіць *каго дзе, калі*; ліха носіць *каго дзе*; нялёгкая носіць *каго дзе*; нячыстая сіла носіць *каго дзе*; нячысцік носіць *каго дзе*; хвароба носіць *каго дзе*; чорт носіць *каго дзе*; чэрці душаць *каго дзе. [Корсак] зазлаваў на Міцю: «А дзе ж яго халера носіць? Удома ўжо ні днюе ні начуе. Чакай дабра».* Адамчык. *[Лявон:] Дзе халера носіць цешчу, дзе?* Марчук. *Збан.. зірнуў на гадзіннік. Роўна восем. — Дзе ж іх халера носіць?* Шашкоў.

**ХАЛ`ЕРА НЯС`Е (ПРЫН`ЕСЛА)** *каго. У безас. ужыв. Праст.* Хто-н. недарэчы, не ў пару прыходзіць, з'яўляецца. Выказванне незадавальнення ў сувязі з прыходам нежаданага госця, наведвальніка. **Сін**.: ліха гоніць *каго*; ліха нясе *каго*; нялёгкая гоніць *каго*; нялёгкая нясе *каго*; нячыстая <сіла> гоніць *каго*; нячыстая <сіла> нясе *каго*; нячысцік нясе *каго*; трасца нясе *каго*; чорт гоніць *каго*; чорт нясе *каго. І раптам уначы пастукаў нехта моцна ў дзверы. «Каго гэта нясе халера?» — казаў Янук, у сенцы ідучы.* Корбан. *[Несцерка:] Ледзьве ўцёк ад іх, ледзьве вырataваўся! Халера тых шляхцюкоў на маю галаву прынесла!* В.Вольскі.

**ХАЛ`ЕРА ЯГ`О (Я`Е, `ІХ) БЯР`Ы (ЗАБЯР`Ы).** *Толькі ў заг. л. Выкл. Праст.* Няхай будзе так, можна пакінуць без увагі. Выказванне згоды, прымірэння, уступкі і пад. **Сін**.: алах з табой; бог з табой; кадук з ім; ліха з ім; ліха яго бяры; трасца яго бяры; халера з ім; хвароба з ім; хрэн з ім; чорт з ім; чорт яго бяры. — *А халера яго бяры, няхай чакае, — наважылася ўрэшце Адэрка. — Абы будову ператрос, а там паўзіраемся.* Юрчанка. *Гаварылі пра нейкія радкі ў нейкім фельетоне. Халера іх забяры з тымі радкамі, Лукаш не стараўся, каб хаця ўслухацца ў іх размову, у яго свайго хапала на душы.* Лобан.

**ХАЛ`ЕРА ЯГ`О (Я`Е, `ІХ, ЦЯБ`Е, В`АС) В`ЕДАЕ.** *Часцей у знач. галоўн. ск. Праст. Неадабр.* Невядома. **Сін**.: агонь яго ведае; алах яго ведае; бог яго ведае; вятры яго ведаюць; кадук яго ведае; ліха яго ведае; немач яго ведае; нячысцік яго ведае; пярун яго ведае; трасца яго ведае; хвароба яго ведае; хрэн яго ведае; хто яго ведае; чорт яго ведае. *Зробім. Паможам. Я навалюся на Карчэню. Ужо другі дзень няма яго ў сельсавеце. Халера яго ведае, дзе ён ходзіць.* Пестрак. —

*Дзе нізінка? — А халера яе ведае, мабыць, справа асталася.* Лобан. *Можа, ты там засеў на ўсю ноч, халера цябе ведае. Добры інтэрас! Ты сабе сядзіш там, а я — чакай тут.* Чорны.

**ХАЛ`ЕРА `ЯСНАЯ.** *Мн. не ўжыв. Выкл. Праст.* Вокліч здзіўлення, захаплення, раздражнення і пад. **Сін**.: авохці мне; бляха-муха; ёлкі зялёныя; ёлкі-маталкі; ёлкі-палкі; ё-маё; фу ты <ну-ты>; цьфу ты нячыстая сіла; цьфу ты <чорт>; чорт бы яго ўзяў; чорт вазьмі; чорт ведае што такое. *Гатоў помнік. Добры помнік... Эксперыментальны, халера ясная. Пашэнціла вам, пашэнціла. Во ён, халера ясная.* Казько. *— Халера ясная! Як жа ты вісіш? — Мяне за ногі трымаюць. — А як не ўтрымаюць. — Хай сабе будзе, што будзе.* Шлег. *І накруцілася ж аднекуль [доктарка]! — як з-пад зямлі перада мной вырасла. Акуляры на носе носіць, а ўсё бачыць, халера ясная!* Бондар.

**ЯК`АЯ ХАЛ`ЕРА.** *Часцей у знач. дзейн. ці дап. Праст. Неадабр. Часцей ужыв. у пытальных ск.* Што (здарылася, робіцца з кім-н. і пад.). **Сін**.: якая трасца; якое ліха. *—Прапала скрыпачка, — сказаў Пятрок. — І якая халера ў іх здарылася?* Быкаў. *— Якая халера цябе і сёння падняла? — пачуўся бурклівы жончын голас.* Блакіт. *— Ты мне скажы, дзядзька Кастусь, чаму гэныя птушкі ў небе, а не на зямлі? Якая халера іх туды цягне? — дапытваўся Цімох Каландзейчык у Кіжэўскага.* Супрунчук.

*ХАЛЕРУ* ● **НА ХАЛ`ЕРУ.** *Акал. Праст.* Навошта, для чаго. **Сін**.: да д’ябла (у 3 знач.); на воўка; на хваробу; на храна; на чорта; на які ляд; на які хрэн; на які чорт; на якога чорта; на якое ліха; на якую трасцу; на якую халеру; якога ліха (у 1 знач.); якога ражна (у 1 знач.); якога хрэна (у 1 знач.); якога чорта (у 1 знач.). *На халеру такі камбайн, што толькі мятлюк жне.* Лобан. *На халеру вы нам здаліся? Бяззбройных біць бог не вяліць, а ў палон браць — лішняя марока.* Грахоўскі. *Сам сабе думаю: каму я патрэбны сляпы? Ні жонкі, ні дзяцей у мяне няма. На халеру жыць, мучыцца.* Левановіч.

**НА ЯК`УЮ ХАЛ`ЕРУ.** *Акал. Праст.* Навошта, для чаго. **Сін**.: да д’ябла (у 3 знач.); на воўка; на ліха; на халеру; на храна; на чорта; на які ляд; на які хрэн; на які чорт; на якога чорта; на якое ліха; на якую трасцу; якога ліха (у 1 знач.); якога ражна (у 1 знач.); якога хрэна (у 1 знач.); якога чорта (у 1 знач.). *Каб набыць такую шыльдачку, цэлую курыцу трэба прадаць. На якую халеру селяніну гэтая шыльдачка?..* Карпюк. *— На якую халеру было ляпаць застаўкай? Чаму ты не прыкусіў язык, пан-мараплаўца! — з’едліва і задзірыста гаварыў Янка...* Ялоўчык.

*ХАЛЕРЫ* ● **ДА ХАЛ`ЕРЫ** *каго, чаго. У безас. ужыв. Праст.* Вельмі многа. **Сін**.: адбою няма *ад каго* (у 2 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без

памяці (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вучэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.), па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго,* чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. — Аднак тут гэтых карасёў да халеры, — сказаў Змітрок і пачухаў патыліцу.* Гардзей. *Увязвацца ў вялікі бой партызаны не думалі, бо карнікаў у навакольных вёсках было да халеры, а партызан — жменька.* Місько.

**НІ ХАЛ`ЕРЫ.** *Акал. Праст. Неадабр.* Зусім нічога (не мець, не выходзіць, не знаходзіць і пад.). **Сін**.: голаму за пазуху; дзірка ад абаранка; ні грана; ні сінь-пораху; ні фіга; ні храна; ні чорта; ні шыша. *Сулравіч пайшоў, а рабочыя засталіся ў двары — узбуджаныя, раззлаваныя. —Ні халеры не выйдзе з нашай забастоўкі...* Арабей. *— Духу ж няма ні халеры! Трэба ж косці пагрэць, — Іван Мырадоеў.. зноў чабурэхнуў конаўку вады на каменне.* Лелвановіч. *Во яшчэ хачу спытаць: як вы тую зубройку ў лесе знаходзіце? Колькі разоў шукаў яе, дык так ні халеры і не знайшоў.* Іпатава. *– Чаму рыбу не вудзіце? Ні халеры няма! – кажа пастух.* Пашкоў.

*ХАЛІФ* ● **ХАЛІФ НА ЧАС.** Гл. каліф.

*ХАЛОДНАЯ* ● **ХАЛОДНАЯ ВАЙНА.** Гл. вайна.

*ХАЛОДНЫ* ● **КІДАЕ Ў <ХАЛОДНЫ> ПОТ** *каго.* Гл. кідае.

**ЯК ХАЛОДНЫ САМАВАР.** Гл. самавар.

*ХАЛЯВАХ* ● *Відаць* **ПАНА ПА ХАЛЯВАХ.** Гл. пана.

*ХАЛЯВУ* ● **ЗАТКНІ ХАЛЯВУ!** Гл. заткні.

**НА ХАЛ`ЯВУ.** *Акал. Праст. Неадабр.* **1**. Хітруючы, нічога не робячы (жыць, пражыць і пад.). **Сін**.: на дурніцу (у 1 знач.). *Але хай бы ён [Хамянок] толькі піў, а то ж паспеў насабачыцца, паразіт — ён*

*і жыццё хоча пражыць на халяву.* Кусянкоў. *Э, не, дарагі! Ты нам не журайля ў небе, а цёлку ў рукі падай! Я думаю, ён яе і ў вочы не бачыў, а хацеў пажывіцца на халяву!* Лазуркін.

**2**. Бясплатна, дарэмна, нічога не плацячы (выпіваць, рабіць што-н.). **Сін**.: на дурніцу (у 2 знач.). — *Ты рубель спачатку гані... Прывык на халяву, — гучна і ўпэўнена гаворыць Сцёпа...* Гігевіч. *І вось выпала яму [Францу] нажлукціцца на дармавое, як кажуць, пацягнуць на халяву.* «Вожык».

*ХАЛЯЎКІ* ● **ХАЛЯЎКІ СМАЛІЦЬ.** Гл. смаліць.

*ХАМУТ* ● **БІЦЬ У ХАМУТ.** Гл. біць.

**ДАВАЦЬ У ХАМУТ.** Гл. даваць.

**НАДЗЯВАЦЬ НА СЯБЕ ХАМУТ.** Гл. надзяваць.

**НАДЗЯВАЦЬ <САБЕ> ХАМУТ НА ШЫЮ.** Гл. надзяваць.

**НАДЗЯВАЦЬ ХАМУТ** *на каго.* Гл. надзяваць.

**НАДЗЯВАЦЬ ХАМУТ НА ШЫЮ** *каму, каго.* Гл. надзяваць.

**УДАРЫЦЬ У ХАМУТ.** Гл. ударыць.

*ХАП* ● **З НОСА КАП, А Ў РОТ ХАП.** Гл. носа.

*ХАПАЕ* ● **З`ОРАК З Н`ЕБА НЕ ХАП`АЕ (НЕ ХАП`АЎ).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Мае сярэднія здольнасці, не вылучаецца незвычайным талентам, розумам і пад. **Сін**.: порах не выдумляць. **Ант**.: хапаць зоркі з неба. *Усевалад Ігнатавіч набіраў людзей з аглядкай і такіх, якія хоць, можа, зорак з неба і не хапалі, але смецця з хаты не выносілі.* Асіпенка. *Я пераканаўся, што і многія журналісты, якія ходзяць пазадзіраўшы насы, не хапаюць зорак з неба, а часам блудзяць у словах, як у густым лесе.* Сабаленка. *І рэдактар, помніцца, паблажліва заўважаў: маўляў, я ведаю, што гэты сябар зорак з неба не хапае...* Радкевіч.

**КЛ`ЁПКІ (КЛ`ЁПАК) НЕ ХАП`АЕ (НЕ СТА`Е) <У ГАЛАВ`Е>** *у каго. У безас. ужыв. Праст.* Хто-н. дурнаваты, з дзівацтвамі. **Сін**.: дах паехаў *у каго*; дурны поп хрысціў *каго*; зрух па фазе *ў каго*; мазгі адсохлі *ў каго* (у 2 знач.); мазгі набакір *у каго*; мазгі не на месцы *ў каго*; мякіна ў галаве *ў каго*; не ўсе дома *ў каго*; салома ў галаве *ў каго*; шарыкі за ролікі заходзяць *у каго.* **Ант**.: галава варыць *у каго*; <ёсць> <свая> галава на плячах *у каго*; кацялок варыць *у каго*; мазгі вараць *у каго*; не галава, а дом саветаў *у каго*; светлая галава *ў каго. — Ён, каб захацеў, мог бы настаўнікам стаць... — Які ж з яго настаўнік, калі ў яго клёпкі не хапае?* Навуменка. *І ў Крата клёпкі не хапае, і ў Райкі...* Місько. *Ёсць хлеб, соль, грошыкі ў яго, дыплом акадэмічны мае... Але — для крытыка майго — яшчэ шмат клёпак не хапае.* Танк. *[Яніна:] Вы не ведаеце, што яна дурная?.. Прыдуркаватая такая... У яе ў галаве не стае трохі клёпак.* Гартны.

**НАКОЛЬКІ ХАПАЕ ВОКА.** Гл. вока.

**П`ОРАХУ НЕ ХАП`АЕ (НЕ ХАП`ІЛА, НЕ Х`ОПІЦЬ)** *у каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Недастаткова сіл, энергіі, волі і пад. для ажыццяўлення чаго-н. **Сін**.: аслаблі гайкі *ў каго* (у 2 знач.); жыдкі лыткі *ў каго*; кароткі завароткі *ў каго, чые*; кішка тонкая *ў каго* (у 1 знач.); кораткі пяты *ў каго*; не адтуль растуць рукі *чые, у каго. Ты ж, здаецца, і фельетоны ў свой час пісаў, і тэмы маралі выдаваў. А цяпер што? Пораху не хапае?* Кузьмянкоў. — А *мы вяртаемся назад. Вельмі ж далёка ісці. Канца не відаць. — Эх вы, не хапіла пораху, — з дакорам сказаў Ждан.* Дамашэвіч. — *Якія ж вы робіце вывады? — Хутка будзе бура. — Вы маеце на ўвазе новую рэвалюцыю? — Так. — Не выйдзе! Пораху не хопіць.* Гурскі.

**ТОЛЬКІ ПТУШЫНАГА МАЛАКА НЕ ХАПАЕ** *ў каго, дзе.* Гл. няма.

*ХАПАЛА* ● **Г`ЭТАГА ЯШЧ`Э НЕ ХАП`АЛА.** *Выкл. Разм.* Вокліч абурэння, неадабрэння і пад. з выпадку чаго-н. непажаданага. **Сін**.: яшчэ чаго не хапала. *Нібы лінулі вару за шыю Лявонку, — спадарожнікамі былі дзяўчаты. Гэтага яшчэ не хапала! Вось табе і «не простае заданне» — везці дзяўчат.* Жычка. — *Дайце я занясу [пошту]. — Што?.. Куды? —* У *другую брыгаду. — Пеша? Гэтага яшчэ не хапала!* Васілёнак.

**ЯШЧ`Э Т`ОЛЬКІ НЕ ХАП`АЛА (НЕ СТАВ`АЛА)** *каго, чаго. Выкл. Разм.* Вокліч незадавальнення, абурэння кім-н. ці чым-н. непажаданым. *«Таварыш капітан, радавы Бедрыс па вашым загадзе прыбыў!» Бог ты мой, падумаў Бакульчык расчаравана, яшчэ толькі гэтага грамілы не хапала... Чакаў убачыць хударлявага, у няўклюдна абвіслым кіцелі, а тут такі мацак!* Блакіт. *Дождж ліў, а ён сядзеў і маўчаў. І невядома, колькі гэта доўжылася. «Грымотаў яшчэ не ставала толькі!» — падумалася яму раптам.* Астравец. — *Рукі ўгору!.. — Цьфу, нячысцік!.. Толькі цябе не хапала!* Гілевіч. — *Мы са Стасем надумалі ў Мінск ехаць... — Во-во, толькі яшчэ вас там не хапала.* Асіпенка. «*Во скора суседка карову падоіць, малака прынясе*». «*Нам толькі суседкі не хапала», – падумала я і ціха пытаю Валіка:* «*Што будзем рабіць?*» – «*Не панікуй, нешта прыдумаем», – кажа Валік.* Кусянкоў.

**ЯШЧ`Э ЧАГ`О НЕ ХАП`АЛА.** *Выкл. Разм.* Вокліч абурэння, неадабрэння і пад. з выпадку чаго-н. непажаданага. **Сін**.: гэтага яшчэ не хапала. *[Кузьмін:] Няўжо вы сапраўды на танцы з ім пойдзеце? [Віцця:] Яшчэ чаго не хапала.* Крапіва. — *Мама, дазволь папасвіць тваю ця-луш-ку... — Яшчэ чаго не хапала. Ты сваё ўжо адпасвіў.* Пестрак. — *Бяры яе да сябе ў хату, жаніся або сам ідзі ў прымакі... — Яшчэ чаго не хапала, патрэбна яна мне тут у хаце.* Васілевіч.

*ХАПАЦЦА* ● **ХАП`АЦЦА АБ`ЕДЗВЮМА РУК`АМІ** *за што. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. З вялікай ахвотай скарыстоўваць што-н. *Ніводзін з памянёных маіх паходаў не звязаны з турызмам. Усё гэта рабілася пры выпадках і па неабходнасці, хаця за такія выпадкі я заўсёды хапаўся абедзвюма рукамі.* Корбан. **УХАПІЦЦА (СХАПІЦЦА) АБЕДЗВЮМА РУКАМІ** *за што. Зак. Недарэмна ж за тэхналогію з выкарыстаннем ультрагуку, як кажуць, абедзвюма рукамі ўхапіліся заграні́чныя «фірмачы».* «Звязда». *Загадчык аддзела Багацька схапіўся за ананімку абедзвюма рукамі.* Шамякін.

**ХАП`АЦЦА ЗА ГАЛАВ`У.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Разгубіўшыся, не ведаць, што рабіць, прыходзіць у адчай. **Сін**.: брацца за галаву (у 2 знач.). *Апошні год — клубок страшных здарэнняў... Я хапаюся за галаву, калі знаходжу спакойную хвіліну, каб азірнуцца назад.* Гартны. **ХАПІЦЦА ЗА ГАЛАВУ.** *Зак. [Пятру Тадаровічу] пашанцавала, і ён адгарадзіўся ад усяго свету! Але ўжо ў наступную хвіліну ён хапіўся за галаву: сапраўды ён выразна чуў артылерыйскую кананаду.* Чорны.

**ХАПАЦЦА ЗА ЖЫВАТЫ.** Гл. брацца.

**ХАП`АЦЦА ЗА САЛ`ОМІНКУ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Шукаючы выйсця, спрабаваць выратавацца хоць якім, хоць і ненадзейным спосабам. *[Наташа:] Кіньце, Барыс Пятровіч, хапацца за саломінку. Я сачу за станам вашага здароўя. Ведаю ўсе вашы аналізы, кардыяграмы...* Крапіва. *Генерал быў пераможаны. І як тапелец, ён пачаў хапацца за саломінку. Сорамна ж прызнаць сваё бясслаўнае паражэнне!* Якімовіч. **УХАПІЦЦА ЗА САЛОМІНКУ.** *Зак. Толькі і думаю, куды падацца!.. За саломінку ўхапіцца гатова!..* Мележ. — *Ды, можа, акрамя «Евангелля», к гэтаму часу нічога і не чытаў. — Братка Конан, і «Евангелля» не чытаў, бо не ўмею, — ухапіўся за саломінку Журавінка.* Лобан.

**ХАПАЦЦА ЗА ЧУБЫ.** Гл. брацца.

*ХАПАЦЬ* ● **ХАПАЦЬ БОГА ЗА БАРАДУ.** Гл. браць.

**ХАПАЦЬ ЗА ГОРЛА** *каго.* Гл. браць.

**ХАПАЦЬ ЗА ДУШУ.** Гл. браць.

**ХАПАЦЬ ЗА РУКУ** *каго.* Гл. лавіць.

**ХАП`АЦЬ З`ОРКІ З Н`ЕБА.** *Незак. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Здзяйсняць што-н. выключнае, выдатнае. **Ант**.: зорак з неба не хапае; порах не выдумляць. *Некалі ён, Яўген Данілавіч, таксама думаў хапаць зоркі з неба.* Паслядовіч. *Для яго [прараба] як паветра — работа. Ён, напэўна б, прапаў без яе. Як паэмы, — яму чарцяжы. Праз будоўлю жыццё спасцігае. Зорак з неба пакуль не*

*хапае, — ён спяшаецца марыць і жыць.* «ЛіМ».

**ХАП`АЦЬ (СХ`ОПЛІВАЦЬ) НА ЛЯТ`У** *што. Незак. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Разумець, засвойваць адразу, лёгка і хутка. **Сін**.: лавіць на ляту *што* (у 1 знач.). *[Рыбін] хапаў усё на ляту, тут жа рабіў высновы і па іх знаходзіў сляды ворага.* Пестрак. *На першы погляд Таранаў — хлопец нішто сабе. Кемны, усё, як кажуць, хапае на ляту.* Пашкоў. *Адзін вучань на ляту схоплівае, запамінае матэрыял. А другому тая ж арыфметыка даецца куды цяжэй.* «Звязда». *Новы палкоўнік схопліваў усё на ляту, нібы па гэтай зямлі ён ужо хадзіў не раз.* Дамашэвіч.

**ХАП`АЦЬ Ц`ЕРАЗ КР`АЙ**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Страціўшы пачуццё меры, рабіць ці гаварыць што-н. лішняе, недарэчнае. **Сін**.: ламаць дровы; перагінаць палку <*у чым*>. *Палітык не мае права гарачыцца і, прабачце, хапаць цераз край, як гэта робіце вы, мой малады сябра.* Галавач. *А думкі твае правільныя, з імі і пагаджаюся. Рабі, але асцерагайся тым часам, не хапай цераз край. Пачынай з малога.* Лынькоў. **ХАПІЦЬ (ПЕРАХАПІЦЬ) ЦЕРАЗ КРАЙ.** *Зак. —Увагі і заляцанак многа ўдзяляюць ёй тут розныя інтэлігентныя франты. — Ты хапіў цераз край. Я не думаю, каб ёй так проста магло ўсё гэта закружыць галаву.* Машара. *Адчуўшы, мусіць, што хапіў цераз край, Барнась загаварыў больш памяркоўна і прымірэнча.* Каваленка. *Карней сцяміў, што перахапіў цераз край, перабраў, як у карцёжнай гульні, і што далей жартаваць з Валяй так нельга; сястра даведзена да шаленства.* Шамякін.

*ХАПІЦЦА* • **ХАПІЦЦА ЗА ГАЛАВУ.** *Зак. да* **ХАПАЦЦА ЗА ГАЛАВУ.**

**ХАПІЦЦА ЗА ЖЫВАТЫ.** *Зак. да* **ХАПАЦЦА ЗА ЖЫВАТЫ.**

**ХАПІЦЦА ЗА ЧУБЫ.** *Зак. да* **ХАПАЦЦА ЗА ЧУБЫ.**

*ХАПІЦЬ* • **ХАПІЦЬ ЦЕРАЗ КРАЙ.** *Зак. да* **ХАПАЦЬ ЦЕРАЗ КРАЙ**.

**ХАП`ІЦЬ Ш`ЫЛАМ К`АШЫ (П`АТАКІ).** *Незак. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пагнаўшыся за чым-н., зведаць няўдачу (часцей з-за ўласнага промаху). *Зараз можаш быць спакойны. А там, дзе ты быў, хапіў шылам кашы, га?* Бажко. **УХАПІЦЬ ШЫЛАМ КАШЫ (ПАТАКІ).** *Зак. — Гэ-э-э, брат, я пасля таго леспрамгаса паўсвету аб'ездзіў. І на цаліне быў... А цяпер еду дадому... — Во, і ў нас такія пералётныя дадому вяртаюцца. Ухопяць там недзе шылам патакі — і назад...* Палтаран. *Куды ёй, Антонка, хай пагуляе яшчэ гадочкаў колькі. Паспее нажыцца з вашым братам, паспее ўхапіць шылам патакі.* Кандрусевіч.

*ХАПОК* • **НА ХАП`ОК.** *Акал. Разм.* Спяшаючыся, не затрачваючы многа часу (рабіць што-н.). *Або вось падкормку як мы раздаём. На хапок усё.* Асіпенка. *Пракаланая камера спускала дух, і паездка ў лес*

*на хапок канчалася той ці іншай непрыемнасцю.* Ермаловіч.

*ХАРАКТАР* ● **ВЫТРЫМЛІВАЦЬ ХАРАКТАР.** Гл. вытрымліваць.

*ХАРАКТАРАМ* ● **З ХАР`АКТАРАМ.** *Вык. Разм. Часцей адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Рашучы, прынцыповы, не бязвольны. – *А куды ты малако возіш? –У мястэчка, куды ж! – з яўнаю нездаволенасцю сказаў хлопец, і Сцёпка падумаў, што паліцаеў сынок, здаецца, з характарам.* Быкаў. *Лёша рос не такім падатлівым, ціхоняй, а быў з характарам, мог пастаяць за сябе.* Грамовіч. *[Каравай:] Мяккацелы, кажаце? Не-е... Мужык з характарам.* Макаёнак. *Ну, а Кулік таксама з характарам. Барацьба ішла з пераменным поспехам.* Дамашэвіч.

*ХАРАКТАРЫ* ● **У ХАР`АКТАРЫ** *чыім, каго. Вык. Разм.* Часцей ужыв. пры дзейн., выраж. займ. *гэта* ці інф. Уласціва каму-н. *Маргарыта першая выскачыла з кухні і пабегла ў пярэднюю. Гэта ў яе характары — быць вельмі папярэдлівай да гасцей.* Скрыган. *[Багушэвіч] забыў, адключыўся ад усяго гэтага. Такое бывала з ім часта, яно ў яго характары.* Хомчанка. *Гэта было ў характары тэхнолага. Ён быў гаваркі, спрытны на язык, калі побач не было начальства.* Крыга. *Янка пакрыўдзіўся, надзьмуўся, але ненадоўга: таіць крыўду ён не ўмеў, увогуле, нешта таіць было не ў яго характары.* Блакіт. *І зноў кандыдат адчуў сябе кепска. Не, на спрэчку ён не пойдзе, не ў яго характары лезці на ражон.* Дзятлаў.

*ХАРЧ* ● **ВЕРАБ'`ІНЫ Х`АРЧ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Выпадковыя сродкі існавання, здабытыя дзе прыйдзецца і як папала. **Сін.**: падножны корм. *На пятнаццаты дзень, ушчэнт зняс͡іленыя «вераб'іным харчам» і хадою напрасткі, апошнія два дні па нейкай пушчы, хлопцы доўга, ох доўга сачылі з кустоў за самотным, растрэсеным хутарам у даліне, на беразе вялікага і, як здавалася, шэра-халоднага возера.* Брыль. — *Не на вераб'іным харчы жыву, во — усяго па самае горла. Казна дае дваццаць восем рублёў калгаснай пенсіі.* Супрунчук.

*ХАРЫБДАЙ* ● **МІЖ СЦЫЛАЙ І ХАРЫБДАЙ.** Гл. сцылай.

*ХАТА* ● **БЫЛ`А Ў САБ`АКІ Х`АТА.** *Выкл. Разм. Іран.* Ужыв. як адмоўны адказ на папярэдняе пытанне ці сцвярджэнне аб наяўнасці, існаванні каго-, чаго-н. Няма і не было каго-, чаго-н. — *А дзе ў яго цешча? — Якая цешча!.. Была ў сабакі хата. У Цімахах нейкую ўдаву мае.* Гурскі. — *Білет дзе твой? — Там у мужыка майго. У тым вагоне... — Была ў сабакі хата, — выскаліўся, паказваючы ў кутку расцягнутых губ устаўныя зубы, немалады кандуктар.* Адамчык. *Каму карысць? Бацькам ягоным? Дык яны ў зямлі даўно. Дзецям? А дзе яны? Была ў сабакі хата.* Карпаў.

**НЕ ТУД`Ы Х`АТА.** *У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Дарэмна; не тое, на што хто-н. разлічваў. Пра неапраўданыя надзеі, разлікі, меркаванні. **Сін**.: не туды тое; не тут тое было. *[Дабрыян:] Неўміручыя — гэта ж здаровыя, працаздольныя людзі. [Дажывалаў:] Дык што? Вечна ўколваць? [Торгала:] І пенсіі не будзе? [Дабрыян:] А нашто здароваму чалавеку пенсія? [Дажывалаў:] Вось табе і на! [Застрамілава:] Выходзіць — не туды хата.* Крапіва. — *Як бы я хацеў на сняданку сесці спакойна за стол, наліць шклянку гарачага чаю з цукрам, а хлеб намазаць маслам. — Загнуў ты, браце. Не туды хата.* Няхай.

<u>*Мая (твая, яго, яе, наша, ваша, іх, іхняя)*</u> **Х`АТА З КР`АЮ.** *У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Каго-н. зусім не датычыцца; што-н. не мае ніякіх адносін да каго-н. **Сін**.: справа старана. *[Моцкін:] Таварыш Гарошка! Ты Моцкіна не чапай! Мая хата з краю, я распісак не пісаў. Мне ўручылі квітанцыю — і ўсё. А як вы там зрабілі — мне малая справа.* Макаёнак. *[Даніла:] Зямлю панскую араў? [Рыгор:] Я ж не сам яе браў. [Даніла:] Ты хочаш сказаць, што твая хата з краю?* Крапіва. *Яго заўсёды хата з краю... Ні паняты, ні сведка ён: не чуў, не бачыў, знаць не знае, адкуль званіў трывогу звон.* Бачыла. *Ён, гэты Пецік, хаваецца, хоча ёй [цётцы] нос уцерці, яе хата з краю.* Навуменка. *Якая мне да гэтага справа? Зверху далі ўстаноўку секчы [лес], яны і адказваюць... А наша хата з краю...* Гурскі. *[Аскерка:] Адкіньце гонар. Ваша хата — з краю. Я хама не пусціў бы на парог.* Куляшоў. *Некаторыя манцёры спрабавалі і на «аб’ектыўшчыне» выехаць і наогул давесці, што яны і людзі «малыя» і «хата іх з краю».* Шынклер. *Другія нічога не гаварылі, толькі пасмейваліся ў вусы. Трэцім было ўсё роўна: іхняя хата з краю, няхай сабе і выслугоўваюцца, вялікі то клопат.* Лынькоў. *Глядзі, як лоўка! Справу справіў, якую сам пусціў на дно: рашыў пры старшым — хата з краю! — замёў сляды, і не значно.* Лужанін. *– Дзед! Не лезь не ўсвае справы. І не падглядвай за маладымі... Шануй сваё месца. Твая хата з краю. – Мая хата з краю.* Шамякін.

**Ч`ЫМ Х`АТА БАГ`АТА.** *Выкл. Разм.* Выказванне ветлівага запрашэння паесці, перакусіць, шчыра падзяліцца з кім-н. тым, што ёсць у гаспадара. *Мо і радасць тут — госць, больш нуды праклятай; вось бярыце, што ёсць, чым хата багата.* Купала. *То ўжо выбачайце: чым хата багата. Прыжджэм Васілёвага вяселля — іначай загуляем,* Гартны. *[Янкель:] Прашу, прашу, чым хата багата.* Галубок. *Селі снедаць: чорны, здаровы хлеб, вэнджаная дзічына.., мочаныя лясныя яблыкі, квашаныя агуркі, а да іх, агуркоў, — празрысты мёд. — Чым хата багата, — запрашаў ляснік.* Яновіч.

*ХАТУ* ● **КІДАЦЬ АГОНЬ У ХАТУ.** Гл. кідаць.

**ПАДВОДЗІЦЬ ПАД ДУРНОГА ХАТУ** *каго.* Гл. падводзіць.

**ПАДКІНУЦЬ АГНЮ Ў ХАТУ.** Гл. падкінуць.

**УКІНУЦЬ КАТА Ў ХАТУ** *чыю, каму.* Гл. укінуць.

*ХАТЫ* ● **ВЫНАС СМЕЦЦЯ З ХАТЫ.** Гл. вынас.

**ВЫНОСІЦЬ СМЕЦЦЕ З ХАТЫ.** Гл. выносіць.

*ХАХАНЬКІ* ● **НЕ Х`АХАНЬКІ** *каму. Вык. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр., абстр. прадмета ці дзейн.-займ. *гэта.* Вельмі важна, значна; справа сур'ёзная. **Сін**.: не жарты (у 1 знач.); не жук на палачцы; не кот наплакаў (у 2 знач.); не фунт ізюму. *Мост — гэта вам не хаханькі. Да ночы не паставіце...* Лынькоў. *А ты што ж думаў?.. Вайна — не хаханькі.* Быкаў. — *Гэта табе не хаханькі, Мірон, — сказаў [гаспадар]. — Колькі там таго асталося, і вясна.* Галавач. *Для цябе, можа, гэта і разумны ход у такой ігры, а для самалюбства дзяўчыны — крыўдна. Гэта табе не хаханькі.* Машара.

**2**. Ужыв. пры дзейн., выраж. колькасна-імен. спалучэннем. Вельмі многа, нямала. **Сін**.: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу <у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. Ды дабрацца няма як, — семнаццаць кіламетраў — не хаханькі.* Корбан.

*ХАХЛЫ* ● **ХАХЛЫ ВЯЗАЦЬ** *у каго, каму.* Гл. вязаць.

*ХАЦЕ* ● **ХОЦЬ СЦЕНЫ Ў ХАЦЕ АБКЛЕЙВАЙ** *чаго.* Гл. абклейвай.

*ХАЧУ* ● **БЯРЫ НЕ ХАЧУ** <*чаго*>. Гл. бяры.

**ЕШ НЕ ХАЧУ** *чаго.* Гл. еш.

**ПА С`АМАЕ НЕ ХАЧ`У.** *Акал. Разм.* Спаўна, як толькі можна; уволю (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін**.: на поўную катушку (у 3 знач.); на поўную сілу (у 2 знач.); на ўсе застаўкі (у 4 знач.); на ўсю жалезку (у 1 знач.); на ўсю іванаўскую (у 2 знач.); па самае годзе (у 1 знач.); па самае нельга. *Алёшка сказаў, што «ігрушку» ён не знайшоў, што яна яго, што ён з ёю «наіграўся па самае не хачу».* Пташнікаў. *Лепш жыватом стол адапхнуць, чым не ўважыць гасціны гаспадара, сказаўшы, што наеўся па самае не хачу.* Лойка.

**ПЛЯВ`АЦЬ ХАЧ`У (ХАЦ`ЕЎ)** *на каго, на што. Незак. Праст.* Часцей ужыв. пры дзейн., выраж. займ. 1-й ас. З пагардай стаўлюся да каго-, чаго-н., не зважаю на каго-, што-н. *Але я табе кажу, як чалавеку, як свайму брату, бо я ўсё ж такі больш настаўнік, чым пісар, — пляваць я хачу на пісарства, — не мяшайся ты ў гэтую брудную справу!..* Колас. *Бачыш ты яго, якая шышка: стараста! А я пляваць на цябе хачу, пане мой!* Чарнышэвіч. *І яшчэ раз пляваць я хацеў на ўсё «цвярозае», «разумнае» хіхіканне вакол таго, бачыце, «графскага ворыва». Геній-араты [Л.Талстой] — гэта таксама высокая задушэўная музыка, глыбокі сэнс, непераможная мудрасць прастаты.* Брыль.

**Ц`ЕРАЗ НЕ ХАЧ`У.** *Акал. Разм.* Насуперак свайму хаценню, жаданню (рабіць што-н.). **Сін.:** праз не магу. *А там сам ён, Іван Паўлавіч, нібыта і ні пры чым, проста вымушаны цераз не хачу рабіць усё гэта для пустой справаздачы.* Федарэнка. *А можа, і яна таксама вінавата. Пайшла з паліцаем. А магла б і не пайсці. Сказала, не пайду, а пайшла. Значыць, пагадзілася. А можа, і спадабалася. Цераз не хачу. Цераз не хачу, кажуць, праходзяць ці не ўсе жанчыны, ды пасля не шкадуюць…* Быкаў.

*ХВАЛА* ● **ХВАЛ`А АЛ`АХУ.** *У знач. пабочн. сл. Разм. Часцей жарт.* На шчасце. Выказванне радасці, задавальнення, супакою з якой-н. прычыны. **Сін**.: дзякаваць богу (у 2 знач.); дзякуй богу (у 4 знач.); слава алаху; слава богу (у 3 знач.); хвала богу (у 2 знач.); хваліць бога. *Вы парушалі рэжым, паважаны Алег Кірэевіч, але пагаршэння, хвала алаху, не адбылося. У гэтым цуд і загадка.* Мяжэвіч.

**ХВАЛ`А Б`ОГУ.** *Разм.* **1**. *Акал.* Вельмі добра. **Сін**.: будзь-будзь (у 1 знач.); будзь здароў (у 1 знач.); дай бог (у 1 знач.); дай бог кожнаму (у 2 знач.); дзякуй богу (у 1 знач.); за маё-маё (у 1 знач.); за маліну (у 2 знач.); з бляскам (у 1 знач.); кум каралю <і сват міністру> <у 3 знач.); люба-дарага; на дзіва (у 2 знач.); на поўнае вока; на пяць з плюсам; на славу (у 1 знач»); на ўсе сто (у 2 знач.); на яць (у 1 знач.); разлюлі-маліна (у 2 знач.); слава богу (у 1 знач.); хоць куды (у 2 знач.); што трэба (у 1 знач.); як не трэба лепш. *[Максім:] Ну і хвала богу, што так*

*выйшла.* Макаёнак. *І так хвала богу, што жывы, не паранены. А магло ж, магло...* Сачанка.

**2**. *У знач. пабочн. сл.* На шчасце. Выказванне радасці, задавальнення, супакою з якой-н. прычыны. **Сін**.: дзякаваць богу (у 2 знач.); дзякуй богу (у 4 знач.); слава алаху; слава богу (у 3 знач.); хвала алаху; хваліць бога. *Усяго паўнютка, хвала богу, — збажынкі новай і мурогу.* Колас. *[Сцяпан] ускінуў сумку на плечы, выкіраваў на дарогу — хвала богу, дарога-сыпанка, сухая,ісці можна.* А.Жук. *У нас, як у лазню, то, хвала богу і мыла ёсць.* Цяжкі.

*ХВАЛІ* ● **НА ВЫС`ОКАЙ ХВ`АЛІ** <u>трымацца, жыць</u> і пад. *Акал. Разм.* У стане задаволіць самыя строгія патрабаванні. **Сін**.: на вышыні; на ўзроўні. *Новы ваенны губернатар пераканаўся, што паўстанне на Гродзеншчыне яшчэ трымаецца на высокай хвалі, не так, як у іншых губернях.* Якімовіч. *Мінуў месяц, а Валя, як дзяўчынка, па-ранейшаму жыла на высокай хвалі.* Карпаў.

*ХВАЛІЦЬ* ● **ХВАЛ`ІЦЬ Б`ОГА.** *У знач. пабочн. сл. Разм.* На шчасце. Выказванне радасці, задавальнення, супакою з якой-н. прычыны. **Сін**.: дзякаваць богу (у 2 знач.); дзякуй богу (у 4 знач.); слава алаху; слава богу (у 3 знач.); хвала алаху; хвала богу (у 2 знач.). *Больш за ўсё цягнула паглядзець на сына, парадавацца, што ён стаў, хваліць бога, не горшы, як у людзей і падрос за гэтыя гады, і пасталеў, і нават на Бычыху стаў менш падобны.* Кулакоўскі. *З асцярогай выбіралі [Яўхім і Сацура] і хаты, вялікія вёскі, тым больш мястэчка, наогул абыходзілі — хваліць бога, іх у гэтым балотным краі было нягуста.* Мележ. *Будынкі ў мяне, хваліць бога, спраўныя.* Чарнышэвіч.

*ХВАЛЯХ* ● **НА КАР`ОТКІХ ХВ`АЛЯХ** <u>гаварыць (пагаварыць)</u> і пад. *Акал. Разм.* Вельмі сур'ёзна і не дапускаючы пярэчанняў. *У мяне дома са сваімі так — доўга не размаўляю з імі. На кароткіх хвалях. «Запомнілі?» — «Запомнілі». — «Паўтарыце!» От так... Што хачу, тое і раблю.* Ярашэвіч. *[Саша:] Вас пакрыўдзілі? Хто, скажыце толькі. Я з ім на кароткіх хвалях пагавару зараз.* Козел. *[Мікола:] Сымона я бяру на сябе. Да пабачэння. А з дзядзькам Тарасам таксама пагутару на кароткіх хвалях.* Валасевіч.

*ХВАРОБА* ● **УС`ЯКАЯ ХВАР`ОБА.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Праст. Неадабр.* Самае рознае; што хочаш. **Сін**.: усякая трасца. *Чаму пасёлкі карысней беднаце? А вось чаму. Аднаму на хутары табе й пастух трэба, і калодзеж, і ўсякая хвароба.* Галавач.

**ХВАР`ОБА З `ІМ (З ТАБ`ОЙ, З `ЁЙ, З В`АМІ, З `ІМІ).** *Выкл. Праст.* Няхай будзе так, можна пакінуць без увагі. Выказванне згоды, прымірэння, уступкі і пад. **Сін**.: алах з табой; бог з табой; кадук з ім; ліха з ім; ліха яго бяры; трасца яго бяры; халера з ім; халера яго бяры;

хрэн з ім; чорт з ім; чорт яго бяры. *«Ну, і хвароба з вамі, скнары няшчасныя! Без вас пражыву, — з крыўдай падумаў ён [Віця] пра гаспадароў. — Злосць на мне спаганяеце».* Нядзведскі.

**ХВАР`ОБА НА ЯГ`О (НА ЦЯБ`Е, НА Я`Е, НА `ІХ, НА В`АС).** *Выкл. Праст.* Выказванне абурэння, злосці, гневу і пад. **Сін**.: каб на яго ліха; кадук на яго; кадук яго вазьмі; ліха матары <*чыёй*>; ліха на яго; ліха яго галаве; трасца яго галаве; трасца яго матары; трасца яму ў бок; халера на яго; хрэн у вочы *каму*; чэмер на яго галаву. *Нават сорам на хатніх зірнуць: ці не ўцямілі, хвароба на іх, ад чаго мой тварык смяецца, ад чаго маё сэрцайка б'ецца.* Багдановіч. *У мяне ў самой залетась [свінка] была. Хвароба на яе, як ускруціцца на кныры, дык у рот нічога не бярэ. А пусці к кныру — якое тады з яе сала?* Ермаловіч.

**ХВАР`ОБА НЕ БЯР`Э (НЕ В`ОЗЬМЕ)** *каго. У безас. ужыв. Праст.* Нічога не здараецца, не робіцца з кім-н., не шкодзіць каму-н. **Сін**.: кадук не бярэ *каго*; ліха не бярэ *каго*; ніякае ліха не бярэ *каго*; ніякая трасца не бярэ *каго*; ніякая халера не бярэ *каго*; ніякі чорт не бярэ *каго*; халера не бярэ *каго*; чорт не бярэ *каго. Кіну гусей, хвароба іх не возьме!* Бядуля.

**ХВАР`ОБА Н`ОСІЦЬ (ПАН`ЕСЛА)** *каго дзе. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Хто-н. недарэчы, не ў пару ходзіць, бадзяецца дзе-н. **Сін**.: каланіца носіць *каго дзе, калі;* ліха носіць *каго дзе*; нялёгкая носіць *каго дзе*; нячыстая сіла носіць *каго дзе*; нячысцік носіць *каго дзе*; халера носіць *каго дзе*; чорт носіць *каго дзе*; чэрці душаць *каго дзе. Не паспеў Адам узяцца за парэнчы, як дзверы вагона раптам расчыніліся і адтуль скокнуў, ледзь не збіўшы з ног Адама, нейкі дзяцюк. — Носіць вас тут хвароба, — прабурчаў Адам.* Шынклер. *І панесла ж яго хвароба пайсці якраз па вашай вуліцы, калі мне трэ было зайсці.* Мурашка.

**ХВАР`ОБА ЯГ`О (Я`Е, `ІХ, ЦЯБ`Е, В`АС) В`ЕДАЕ.** *Часцей у знач. галоўн. ск. Праст. Неадабр.* Невядома. **Сін**.: агонь яго ведае; алах яго ведае; бог яго ведае; вятры яго ведаюць; кадук яго ведае; ліха яго ведае; немач яго ведае; нячысцік яго ведае; пярун яго ведае; трасца яго ведае; халера яго ведае; хрэн яго ведае; хто яго ведае; чорт яго ведае. — *А хвароба яго ведае, — неяк нехаця працягнуў Алесь. — Яму мо і не холадна — ці ж ты з ім разбярэшся?* Лецка. *Гітлераўцы.. ночы баяцца. Ракеты пускаюць, мясцовасць прастрэльваюць. А ўдзень сядзяць ціха, адпачываюць, можа, нават спяць. Хвароба іх ведае...* Курто.

**ШТ`О ЗА ХВАР`ОБА!** *Выкл. Праст.* Вокліч незадавальнення, здзіўлення, неразумення. Што гэта значыць, як гэта зразумець?! **Сін**.:

што за ліха!; што за трасца!; што за чартаўшчына!; што за чорт! *Глядзіць Міхал.. што за хвароба? Ён не адзін — іх дзве асобы: адзін Міхал — нядошлы, млявы, другі — здаровы і рухавы!* Колас. — *Што за хвароба! — бурчыць дзядзька. — Чаму гэта ў хаце цёмна?* Галубок.

*ХВАРОБАЙ* ● **ТРАСЦУ З ХВАРОБАЙ.** Гл. трасцу.

*ХВАРОБЕ* ● **ЯК КАШАЛЬ ХВАРОБЕ.** Гл. кашаль.

*ХВАРОБУ* ● **НА ХВАР`ОБУ.** *Акал. Праст.* Навошта, для чаго. **Сін**.: да д'ябла (у 3 знач.); на воўка; на ліха; на халеру; на храна; на чорта; на які ляд; на які хрэн; на які чорт; на якога чорта; на якое ліха; на якую трасцу; на якую халеру; якога ліха (у 1 знач.); якога ражна (у 1 знач.); якога хрэна (у 1 знач.); якога чорта (у 1 знач.). — *Згарэлі б у чыстым полі твае дровы! — залямантавала Ганна. — На хваробу яны былі?!* Калодзежны. *Для чаго, спытаць, Гляка прыклала і на хваробу чапала Анюту?* «Полымя».

*ХВАРОБЫ* ● **ДА ХВАР`ОБЫ.** *Праст.* **1**. *Акал.* Вельмі моцна (цягне да чаго-н., хочацца чаго-н. і пад.). *Лявон гаворыць: — Ты кажаш — зямля! — Праўда, цягне мяне да яе — да хваробы цягне.* Каваль.

**2**. У *безас. ужыв.* Вельмі многа (чаго-н.). **Сін**.: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>;валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго,* да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. [Лаўрэн:] А ваўкоў жа тады да хваробы было. І мы заўсёды бралі пістаноўку...* Масарэнка.

*ХВАРЭЦЬ* ● **ХВАРЭЦЬ ДУШОЙ** *за каго, за што, па кім, па чым.* Гл. балець.

**ХВАР`ЭЦЬ НА КІШАНЬК`ОВЫЯ СУХ`ОТЫ.** *Незак. Разм. Часцей*

*жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не мець грошай ці скардзіцца на недахоп грошай, на безграшоўе. *Наш тата любіў казаць: хварэеш, братка, на кішэньковыя сухоты.* Янкоўскі. *[Сямёнаўна:] Так што, Жорачка, не трэба хварэць на кішэньковыя сухоты, выртай грошыкі, паквітаем даўжок.* Петрашкевіч.

**ХВАР`ЭЦЬ НА П`АНА.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Доўга спаць, вылежвацца. **Сін**.: даваць храпака; давіць вуха; задаваць храпавіцкага. *У будныя дні ўставалі рана: няма калі хварэць на пана, няма чаго чакаць панукі, калі работы поўны рукі — зноў закладайся на нядзелю.* Колас.

**2**. Весці сябе высакамерна, фанабэрыста, выяўляючы нечаканыя звычкі, імкненне да раскошы і пад. **Сін**.: драць нос; завысока ляцець; задзіраць хвост; капыліць нос; несці сябе высока; паднімаць хвост; распускаць <павіны> хвост. *Мужыцкі сын — ці не пагана! — не хоча працы чорнай знаць: пачаў, ці бач, хварэць на пана! Узяўся панства спаганяць!* Гілевіч. *Хварэў на пана гэты хлоп і пад сябе, напэўна, гроб, бо не спяшаўся ў парабкі. Чым не знаходка хлоп такі?* Бажко. *Бачу, як ты змардаваўся, пан Петражыцкі, ты ж аканом панскі, а на пана хварэеш. Што ты нарабіў кругом? Ці ты не ведаеш, што табе будзе за гэта? Трыбунал!..* Броўка. *Кармілі няблага і плацілі таму, хто працаваў. Праўда, мяне абдзіраў мой зямляк Юзэф Свідэрскі. Ён усё хварэў на пана. А я што... з працоўнай сям'і.* Прокша.

**ХВАРЭЦЬ СЭРЦАМ** *за каго, за што, па кім, па чым.* Гл. балець.

*ХВАСТА* • **ПАДЦІСКАННЕ ХВАСТА.** Гл. падціскання.

*ХВАСТОМ* • **ВІЛЯЦЬ ХВАСТОМ.** Гл. віляць.

**ЗАВІЛЯЦЬ ХВАСТОМ.** Гл. завіляць.

**КРУЦІЦЬ ХВАСТОМ.** Гл. круціць.

**НАКРЫЦЦА ХВАСТОМ.** Гл. накрыцца.

*ХВАСЦЕ* • **ВІСЕЦЬ НА ХВАСЦЕ** *ў каго.* Гл. вісець.

**НА ХВАСЦЕ СТАНАВІЦЦА.** Гл. станавіцца.

**У ХВАСЦ`Е** *плесціся, цягнуцца, быць* і пад. *Акал. Разм. Неадабр.* Ззаду ўсіх, сярод апошніх. **Сін**.: у абозе. — *Нездарма ж вы па ўсіх мерапрыемствах плецяцеся ў хвасце! — Не так, каб вельмі ўжо ў хвасце, — падаў голас Дземідовіч.* Лобан. *[Ядзя:] А чаго ж нам, настаўніцы з бухгалтарам, у хвасце іншых плесціся? Які ж мы прыклад добрым людзям можам падаць?* Козел. *Яму сярдзіта я ў адказ: «Цягніся, дзядзечка, у хвасце: нічога вы — мільён хоць вас — для будаўніцтва не дасце».* Крапіва. *[Моцкін:] Пра хлебанарыхтоўкі зрабі намёк. Толькі асцярожна, не ў лоб. Скажы, што для раёна ты пастараешся... каб не быць у хвасце...* Макаёнак.

*ХВАТКА* • **М`ЁРТВАЯ ХВ`АТКА.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск.*

*Разм. Адабр. і неадабр.* Здольнасць упарта дабівацца свайго. *[Барыс:] Ён створаны самім лёсам, каб быць старшынёй калгаса. У яго мёртвая хватка!* Матукоўскі. *Міхал Шарупіч ведаў, што начальніка ліцейнага цэняць за яго спраўнасць, за мёртвую хватку ў рабоце, паважаюць як практыка.* Карпаў. *Мяккасць, лірызм і артыстычная прывабнасць Платонава пераважаюць над той бязлітаснай «мёртвай хваткай», якая ўласціва самой прыродзе і «філасофіі» чарскіх.* Вітка. *Смаляр браў Быліча сваёю мёртваю хваткаю, і гэта прыемна казытала нервы Радзівону Іванавічу.* Блакіт.

*ХВАТКАЙ* ● **М`ЁРТВАЙ ХВ`АТКАЙ** *трымаць, учапіцца* і пад. *Акал. Разм.* Вельмі моцна, трывала, так, што нельга раз'яднаць; намёртва. *Валодзька тузануўся, але яго трымалі мёртвай хваткай.* Карпюк. *Падаючы, [Галай] ліхаманкава засунуў руку ў кішэню. Учапіўся мёртвай хваткай за рукаятку.* Асіпенка. А *Груздзёў? Як ёсць, грыб стары! Пенсію выслужыў, а за крэсла мёртвай хваткай учапіўся...* Аношкін. *Колькі часу прайшло, Вадзім не ўяўляў — кісць рукі мёртвай хваткай упілася ў ненавісны мяшок.* «Маладосць».

*ХВЁДАР* ● **АНДРЭЙ КУЗЬМЕ РОДНЫ ХВЁДАР.** Гл. андрэй.

*ХВІЛІНА* ● **ХВІЛІНА Ў ХВІЛІНУ.** Гл. мінута.

*ХВІЛІНУ* ● **З ХВІЛІНЫ НА ХВІЛІНУ.** Гл. мінуты.

**НА АДНУ ХВІЛІНУ.** Гл. мінуту.

**НІ НА <АДНУ> ХВІЛІНУ.** Гл. мінуту.

**У <АДНУ> ХВІЛІНУ.** Гл. мінуту.

**ХВІЛІНА Ў ХВІЛІНУ.** Гл. мінута.

*ХВІЛІНЫ* ● **З ХВІЛІНЫ НА ХВІЛІНУ.** Гл. мінуты.

**НІ ХВІЛІНЫ.** Гл. мінуты.

*ХВІНДОС* ● **ХВІНДОС ПАД НОС** *каму.* Гл. фіндос.

*ХВОРАГА* ● *Пытаць, пытацца* **Ў ХВ`ОРАГА ЗДАР`ОЎЯ.** *Дап. Разм. Неадабр.* (Пытаць) што-н. недарэчнае, тое, што павінна быць добра вядома таму, хто пытае. *Іншыя, маладзейшыя, глядзелі на Ванду чамусьці падазрона, як бы з недаверам да яе цікаўнасці, якая, вельмі можа быць, абражала іх: што ты пытаеш у хворага здароўя? Хіба сама не бачыш?* Шамякін. — *Наймічка ці патрэбна вам? — Пытаеш у хворага здароўя... Яна пытае наймічку... У багатых трэба пытаць.* Адамчык. — *Чаму справы здаваць, а хто вас вызваляў ад абавязкаў? — А то ж не ведаеце, Вадзім Андрэевіч! Самі ўчора на бюро былі, а сёння пытаеце... у хворага здароўя!* Якавенка. — *З твайго бога — слабая дапамога. Сам от узяўся б і дапамог. — Э-э-эт!.. Пытаешся ты ў хворагй здароўя. Які з мяне цяпер цесля... Парахня з мяне сыплецца...* Кандрусевіч.

*ХВОРАЙ* ● **З ХВОРАЙ ГАЛАВЫ НА ЗДАРОВУЮ.** Гл. галавы.

*ХВОСТ* ● **АДАРВАЦЬ ГНІЛОМУ ЦЯЛЯЦІ ХВОСТ.** Гл. адарваць.

**АДКІДВАЦЬ ХВОСТ.** Гл. адкідваць.

**ЗАДЗІРАЦЬ ХВОСТ.** Гл. задзіраць.

**У ХВ`ОСТ І Ў ГР`ЫВУ.** *Акал. Праст.* **1**. Вельмі моцна (гнаць, паганяць каго-н., пападаць каму-н.). А *вунь і брат Міша ідзе. Награшыў я, госпадзі, будзе мне і ў хвост і ў грыву...* Брыль.

**2**. Бязлітасна, непрымірыма (біць, лупіць, крыць і пад.). *Б'юць нашы фрыца ў хвост і ў грыву. Гоняць з-пад Сталінграда.* Новікаў. *А гнаць іх [акупантаў] пачнём, тут ужо і вы будзеце не абараняцца, а наступаць, лупіць іх у хвост і ў грыву. Так я кажу?* Грахоўскі. *Крый іх, Міколка, і ў хвост і ў грыву...* Лынькоў.

**КАТ`У (САБ`АКУ) ПАД ХВ`ОСТ.** *Праст. Груб.* **1**. *Акал.* Упустую, дарэмна, марна (траціць, выкідваць і пад.). *Усё адно нічога ты не варты, тваё жыццё пайшло кату пад хвост.* Гілевіч. *Прайшло чатыры гады вучобы кату пад хвост.* Гігевіч. *Уся надзея на дождж пайшла сабаку пад хвост, а барометр — прахвост, пачаў падымацца ўгару, а падзенне яго аказалася марным.* Колас. *Былы сенакос ляпнуў. Столькі суччa, столькі ламачча на сваіх плячах выцягнулі... і ўсё сабаку пад хвост,* Казько.

**2**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Што-н. не вартае ўвагі, дрэннае. **Сін**.: адны слёзы; глядзець няма на што; з рук вон (у 2 знач.); кульгаць на абедзве нагі (у 3 знач.); курам на смех (у 1 знач.); на ліхога казана; не вытрымлівае ніякай крытыкі; не лезе ні ў якія вароты; нікуды не варты; ні к чорту (у 1 знач.); ні к чорту не варты; ні самому паглядзець ні людзям паказаць; пусці павалюся (у 1 знач.); смеху варты. *Можа, і праўду кажа гэты кірпаты недаростак. На ліха ўсе старанні. Сабаку пад хвост такая работа. Хоць бы галаву зберагчы.* Асіпенка.

**КРУЦІЦЬ ВАЛА <ЗА ХВОСТ>.** Гл. круціць.

**КУПІЛА ХВОСТ ЗАЛУПІЛА** *<у каго>*. Гл. купіла.

**ЛЯЙЧЫНА ПАД ХВОСТ ПАПАЛА** *каму.* Гл. ляйчына.

**НАКРУЦІЦЬ ХВОСТ** *каму.* Гл. накруціць.

**НА С`ОМАЎ ХВ`ОСТ** *зводзіць, звесціся. Акал. Разм.* Ледзь не дарэшты. *Гэта не іх [маладых аўтараў] віна. Гэта віна дзесяцігоддзяў палітыкі, якая зводзіла, як у нас кажуць, на сомаў хвост – мовы, нацыі.* Барадулін. *Ажаніўся бедны з яшчэ бяднейшай. Звяліся, як кажуць, на сомаў хвост...* «Полымя».

**НАСТУПАЦЬ НА ХВОСТ** *каму.* Гл. наступаць.

**НАСЫПАЦЬ СОЛІ НА ХВОСТ** *каму.* Гл. насыпаць.

**НА ХВОСТ СТАНАВІЦЦА.** Гл. станавіцца.

**ПАДНІМАЦЬ ХВОСТ.** Гл. паднімаць.

**ПАДТУЛЬВАЦЬ ХВОСТ.** Гл. падтульваць.

**ПАКАЗАЦЬ НА ЧЫМ СВІННЯ ХВОСТ НОСІЦЬ** *каму.* Гл. паказаць.

**ПАПРАЎ КАЗЕ ХВОСТ.** Гл. папраў.

**ПРЫЦІСКАЦЬ ХВОСТ** *каму.* Гл. прыціскаць.

**ПРЫШЫЙ КАБЫЛЕ ХВОСТ.** Гл. прышый.

**РАСПУСКАЦЬ <ПАВІНЫ> ХВОСТ.** Гл. распускаць.

**САДЗІЦЦА НА ХВОСТ** *каму, чый.* Гл. садзіцца.

**ТРЫМАЦЬ ХВОСТ ТРУБОЙ.** Гл. трымаць.

**ЦЯГНУЦЬ КАТА ЗА ХВОСТ.** Гл. цягнуць.

**ЯК АВ`ЕЧЫ ХВ`ОСТ**. *Акал. Разм.* Вельмі моцна (калаціцца, трэсціся і пад.). **Сін.**: як асіна; як асінавы ліст. *Слухай, друг, не калаціся ты як авечы хвост. Я цябе не з'ем, але і ты паводзь сябе разумна.* Асіпенка. *Сэрца працягвала ўздрыгваць. «Як авечы хвост», — падумаў [Іван Піліпавіч] з гумарам, але не без болю за яго.* Шамякін. *Дзікае паляванне памчала далей, а я сеў на зямлю. Сэрца маё калацілася як хвост авечы.* Караткевіч. *Зрабілася холадна, і голая душа затрэслася як авечы хвост.* Захаранка.

*ХВОСЦІКАМ* ● **З ХВ`ОСЦІКАМ.** *Акал. Разм. Ужыв. пасля лічэбн. (пры прыблізным вызначэнні велічыні, даўжыні, колькасці чаго-н,).* З невялікім перавышэннем. **Сін.**: з гакам (у 1 знач.); з капейкамі; з лішкам (у 1 знач.); з лішнім; з паходам. *Нават калі скінуць гадоў пятнаццаць з плячэй дзеда Талаша, то і тады ён быў ужо немалады: было яму тады гадоў семдзесят з хвосцікам.* Колас. — *Па чатыры месяцы нумар друкуецца? — З хвосцікам.* Крапіва. *Ты нейкіх пару з хвосцікам гадоў з свайго нібыта выкрасліла веку.* Лось.

*ХІСТАЕЦЦА* ● **ГРУНТ ХІСТАЕЦЦА** *пад кім.* Гл. грунт.

**ГРУНТ ХІСТАЕЦЦА ПАД НАГАМІ** *чыімі, у каго.* Гл. грунт.

**КРЭСЛА ХІСТАЕЦЦА** *пад кім, чыё.* Гл. крэсла.

**ХІСТ`АЕЦЦА (ХІСТ`АЎСЯ) АД В`ЕТРУ.** *Часцей у 2, 3-й ас. цяп. ці ў пр. У знач. прэдык. азн. Разм.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі слабы, знясілены. **Сін.**: ад ветру валіцца. *[Рагамед] хадзіў худы, як шкілет, хістаўся ад ветру і быў зусім абыякавы да свайго лёсу.* Навуменка. *Колькі нас было, галодныя, зялёныя, ад ветру хісталіся.* А.Жук.

**2**. Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Нетрывалы і ненадзейны, амаль непрыгодны. *Некаторыя пабудавалі новыя хаты — гэта ў часы завірухі той, а ў другіх як стаялі, так і стаяць, ад ветру хістаюцца.* Каваль.

*ХІТРЫ* ● **ЗАДНІМ РОЗУМАМ ХІТРЫ.** Гл. моцны.

*ХІТРЫКІ* ● **МУДРЫКІ НА ХІТРЫКІ.** Гл. мудрыкі.

*ХЛЕБ* ● **АДБІВАЦЬ ХЛЕБ** *у каго.* Гл. адбіваць.

**ДАРМА ЕСЦІ ХЛЕБ.** Гл. есці.

**ЕСЦІ СВОЙ ХЛЕБ.** Гл. есці.

**ЕСЦІ ХЛЕБ.** Гл. есці.

**З СЯМІ ПЕЧАЎ ХЛЕБ ЕСЦІ.** Гл. есці.

**ІСЦІ НА СВОЙ ХЛЕБ.** Гл. ісці.

**І Т`О ХЛ`ЕБ.** У *безас. ужыв. Разм.* Добра і гэта (тое, пра што гаворыцца ў папярэднім выказванні). — *І наш магазін план выканаў. Трынаццаць рублёў [прэміі] мне далі. — І то хлеб.* Ярашэвіч. — *А ляшча не відаць... Акунь і плотка. Ага-а, і шчупакі забрылі сюды... — Сказаць, каб здорава, нельга, — падагуліў вынікі тоні Ягор Лемяшонак, — аднак цэнтнераў восем ёсць, і то хлеб.* Хадкевіч.

**МАЧАЦЬ СВОЙ ХЛЕБ У ДЗВЕ СОЛІ.** Гл. мачаць.

**НА КАЗ`ЁННЫ ХЛ`ЕБ (Х`АРЧ)** *саджаць. Акал. Разм.* У турму, у зняволенне. *Вашы сходы ці там з'езды раскідаюцца, а саміх на казённы хлеб садзяць.* Купала. *Вось тут якраз Мікуцкі і бачыць той паралелізм у прыродзе, тое злачынства супроць рэжыму эканоміі, за якое належыць на казённы харч саджаць.* Крапіва.

**САДЗІЦЦА НА ХЛЕБ І ВАДУ.** Гл. садзіцца.

**СПЯВАЦЬ НА ХЛЕБ.** Гл. спяваць.

**ХЛ`ЕБ ДЫ С`ОЛЬ** *каму. Выкл. Разм.* Прыемнага, добрага апетыту. Пажаданне таму, каго засталі за ядой. **Сін**.: хлеб-соль (у 4 знач.). — *Дзень добры! — Дзень добры! — Хлеб ды соль! — Дзе тут хлеб, — зацірку ядзім, просім на снеданне! — кажа Агата.* Бядуля. *Толькі мы селі за стол, як увайшоў дзядзька Пракоп. — Хлеб ды соль вам, — сказаў ён.* Сабаленка.

**ХЛ`ЕБ НАДЗ`ЁННЫ.** *Мн. не ўжыв. Функц. не зам.* **1**. *Дзейн. ці дап.* Тое, што крайне неабходна для жыцця, для існавання. *Сымон добра ведаў цану жыцця. І з першага курса самому даводзілася яму зарабляць на хлеб надзённы.* Барадулін. *Пасля бальніцы нічога ў іх жыцці, здаецца, не перамянілася. Былі ўсё тыя ж клопаты пра хлеб надзённы, усё тая ж мітусня і бязладдзе.* Казько.

**2**. *Часцей у знач. вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Самае важнае, неабходнае. *Непакой за цябе, зямля мая, за твой ураджай, спакойны сон, за дрэва кожнае ў гаях, за веснiх песень перазвон, непакой за цябе, зямля мая, — мой хлеб надзённы.* Танк. *Шматгранная яна, крытычная служба літаратуры! Гаворачы некалькі ўзнёсла, хлеб надзённы яе складае рэцэнзія, жанр чорнарабочы і няўдзячны, але які выконвае бадай што асноўнае*

*папярэдняе разведванне літаратурнага працэсу.* Яскевіч.

**ХЛ`ЕБ-С`ОЛЬ.** *Мн. не ўжыв. Разм.* **1**. *У ролі розных чл. ск.* Харч, яда. — *Я ўжо думала, цябе ваўкі з'елі ці мядзведзі задушылі, у мох завалаклі ды ламаччам закідалі. — Не, бабка, ваўкі не з'елі, мядзведзі не задушылі, прынёс я хлеба-солі, на ўсё наша жыццё будзе даволі. Садзіся, старая, за стол!* Якімовіч. *Есаул Хвядзько ўжо сядзеў у Цітка за сталом. — З прыемнасцю ўкушу вашага хлеба-солі, — ветліва ўсміхаючыся Парасцы, гаварыў ён.* Лобан. *Падзялю з сяброўкай тайну, з падарожнікам — хлеб-соль.* Янішчыц.

**2**. *Часцей дап.* Пачастунак. *Мне той мачышын пачастунак не вельмі лез у рот. Я хуценька падзякаваў за хлеб-соль і пачаў аглядаць новую хату.* Сабаленка. *[Мікола:] Выбачайце за нечаканы візіт. Дзякуем за хлеб-соль, жадаем здароўя.* Валасевіч.

**3**. *Часцей дап.* Турботы, апека. *За ўсё, што сёння маю, што даў мне мой народ: за кут у родным краю, за хлеб-соль без клапот, — я адплаціў народу, чым моц мая магла: зваў з путаў на свабоду, зваў з цемры да святла.* Купала. *Бывай здароў, Мікола, трымайся, калі будзе што новае, паведамлю. Дзякую за хлеб-соль!* Машара.

**4**. *каму. Выкл.* Прыемнага, добрага апетыту. Пажаданне таму, каго засталі за ядой. **Сін**.: хлеб ды соль *каму.* — *Хлеб-соль вам! — гукнуў Сілівей Зязюля распранаючыся, і не паспелі яго запрасіць за стол, як ён сам прысеў на край лаўкі.* Каваль. *[Калібераў:] А-а, Гарошка. Ну, заходзь, заходзь. Што ты засаромеўся, нібы ў жаночую лазню трапіў? [Гарошка:] Ды вы ж... Ды я ж... не ў час трапіў. Хлеб-соль.* Макаёнак.

**ЦЕРАЗ ХЛЕБ ШУКАЦЬ ХЛЕБА.** Гл. шукаць.

**ШЫЛАМ ХЛЕБ ЕСЦІ.** Гл. есці.

*ХЛЕБА* ● Перабівацца, перакідацца **З ХЛ`ЕБА НА КВ`АС (ВАД`У).** *Акал. Разм.* Сяк-так, надгаладзь, не наядаючыся, галадаючы. *Дзеці ж перабіваліся з хлеба на квас, на радаўніцу шукалі кавалка па могільніку ды лічылі, калі вернуцца татка ці мамка.* Якавенка. *Праўда, Альберту дапамагалі сёстры і браты, але яны і самі перабіваліся з хлеба на квас.* Мяжэвіч. *Мой бацька Лаўрэн Чыгір жыў таксама па прымаўцы: з хлеба на квас. Сям'я была вялікая, а дастатак — наадварот,* Пянкрат. *[Многія местачкоўцы] жылі паўбабылямі, перакідаючыся з хлеба на ваду.* Гартны.

Хлеб **І ДА ХЛ`ЕБА.** *Часцей дап. Разм.* Іншыя, апрача хлеба, прадукты харчавання. *Ой, кіраваў я гаспадаркай! Няма чаго валаводы валаводзіць, быў хлеб, было і да хлеба...* Бядуля. *[Скіба:] Маладых вунь не скардзіцца: хлеба ёсць, дзякаваць богу, і да хлеба.* Крапіва. *Толькі ў арцелі, у вялікай, на ўсё сяло, сям'і — ратунак. Толькі так збудзем злыбеду — нішчымніцу і галечу. Даб'ёмся такога, што будзе хлеб на*

*стале і да хлеба будзе!* Мележ. *Дарма, што ён калека, інвалід, а ўсё спраўна ў яго гаспадарцы: і хату новую зрабіў, і хлеб, як той казаў ёсць, і да хлеба!..* Брыль. *[Дабрагост:] Жыццё, казаў бы той, — не трэба скардзіцца: і хлеба ўволю, і да хлеба ёсць.* Гілевіч. *Вядома, без хлеба не сяджу — чаго не, таго не. Маю і да хлеба.* Карпюк.

**КАВАЛАК ХЛЕБА.** Гл. кавалак.

**НЕ ПЕРАЛАМАЦЬ ХЛЕБА** *з кім.* Гл. пераламаць.

**СКАРЫНКА ХЛЕБА.** Гл. скарынка.

**ЦЕРАЗ ХЛЕБ ШУКАЦЬ ХЛЕБА.** Гл. шукаць.

*Дурны* **ЯК САЛА БЕЗ ХЛЕБА.** Гл. сала.

*ХЛЕБАМ* • **ХЛЕБАМ КАРМІЦЬ** *каго.* Гл. карміць.

**ХЛЕБАМ НЕ КАРМІ** *каго.* Гл. кармі.

*ХЛЕБЕ* • **НА КАЗ`ЁННЫМ ХЛ`ЕБЕ** *быць, знаходзіцца* і інш. *Акал. Разм.* У турме, у зняволенні. – *Далі Мятліцкаму – дадуць і Мятліцкай. – А дай рады!.. Ужо другі месяц на казённым хлебе пане Мятліцкі...* Калюга. *Потым было шэсць страшэнна доўгіх месяцаў на казённым хлебе – час немалы, каб усё як след абдумаць: і мінулае, і сучаснае.* Палтаран. *Мой сусед сядзеў на казённым хлебе і даваў паказанні следчым...* «Вожык».

**НА Л`АСК`АВЫМ ХЛ`ЕБЕ** *быць, жыць, сядзець* і пад. *Акал. Разм.* На чыім-н. утрыманні. *[Жонка] гаспадарку шкадавала. Не хацела быць на ласкавым хлебе ў пісара-мужа.* Бядуля. *Конікам нашым робіць, кароўку нашу доіць, парсючка ў свой хлеў перагнаў, і мы ў яго як бы на ласкавым хлебе.* Крапіва. *Назар жыў пры самай меншай дачцэ — Мальвіне. Жыў у вёсцы, дзе нарадзіўся, дзе ўсё жыццё гаспадарыў і дажыў да таго веку, калі трэба ўжо сядзець без клопату на ласкавым хлебе.* Сабаленка.

**СЯДЗЕЦЬ НА ХЛЕБЕ І (ДЫ) <НА> ВАДЗЕ.** Гл. сядзець.

*ХЛЕЎ* • **ГНАЦЬ ГНЕЎ У ХЛЕЎ.** Гл. гнаць.

**ГНЕЎ ПАЙШОЎ У ХЛЕЎ.** Гл. гнеў.

*ХЛОПАЦЬ* • **ХЛ`ОПАЦЬ ВУШ`АМІ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не прымаць ніякіх мер, адносіцца да чаго-н. бестурботна, бесклапотна. *У нас, ведаеце, таварыш Салей, строга. Калі цябе папярэджвалі, а ты вушамі хлопаў, гэта, ведаеце, як інкрымінуецца?* Асіпенка. *Рана ці позна, а ўсё роўна некалі ж стане вядомым усё Бурдзічу, і тады той у першую чаргу спытае за недахопы ў яго, Чокана, дырэктара канторы, які замест таго, каб кіраваць калектывам, сядзеў і хлопаў вушамі.* Гаўрылкін. *Твае здольнасці... я ведаю: як сядзеў дзесяць год назад у аддзеле, так і цяпер сядзіш, а людзі ўжо даўно загадчыкамі сталі, не хлопаюць*

*вушамі, павыбіваліся...* Гігевіч.

*ХЛЫНУЛА* ● **КРОЎ ХЛЫНУЛА Ў ТВАР** *каму, каго.* Гл. кроў.

*ХЛЯБАЎШЫ* ● **НЯС`ОЛАНА ХЛЯБ`АЎШЫ**. *Акал. Разм. Ужыв. у спалучэнні з дзеясл. руху.* Не дабіўшыся свайго, безвынікова. **Сін.:** без штаноў; з голымі рукамі (у 1 знач.); з носам; з такам; ля разбітага карыта; на бабах; ні з чым; перад разбітым карытам; пры пікавых інтарэсах. *[Язва:] Шкада мне гэтых хлопцаў. Прыйдзецца ім пайсці нясолана хлябаўшы.* Крапіва. *Бачыў Васька, як па ўсяму полю ўцякалі сотні людскіх постацей. Давалі звычайнага драпака паны, уцякалі нясолана хлябаўшы.* Лынькоў. *– Адна будзе карысць – возьме ці не! – абразала Ганьку цётка, і Ганька нясолана хлябаўшы вярталася да ўласных сшыткаў...* Васілевіч. *Я – за дзверы. І ён [хлопец] ломіцца на двор. Жучка наша забрахала. Пайшоў нясолана хлябаўшы.* Мыслівец.

*ХМАРА* ● <u>*Хадзіць, прыйсці, сядзець*</u> і пад. **ХМ`АРА ХМ`АРАЙ.** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. У кепскім настроі, пануры, сярдзіты, злосны. **Сін**.: не ў духу; не ў сваёй талерцы (у 1 знач.). *Дзядзька Захар ходзіць хмара хмарай.* Сяркоў. *Невядома, што гаварыў начальніку міліцыі Віцеў апякун, але дадому ў той вечар ён не вярнуўся. Прыйшоў толькі назаўтра хмара хмарай.* Нядзведскі. *Моцна перажываў хлопец. Некалькі дзён ён хадзіў хмара хмарай.* Місько.

*ХМАРАЙ* ● **ХМАРА ХМАРАЙ.** Гл. хмара.

*ХМАРЫ* ● **ХМ`АРЫ ЗГУШЧ`АЮЦЦА (ЗГУШЧ`АЛІСЯ, ЗГУСЦ`ІЛІСЯ)** *над кім, над чым. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Каму-н. ці чаму-н. пагражае небяспека, бяда і пад. **Сін**.: пахне смаленым; хмары згушчаюцца над галавой *чыёй, каго.* **Ант**.: хмары рассейваюцца *якія, чаго*; хмары рассейваюцца над галавой *чыёй, каго. Пазней, адчуўшы, якія хмары над ім згушчаюцца, і баючыся адказнасці за зробленае, Ціхановіч пачаў адхрышчвацца ад наркотыкаў.* «Звязда». *— Значыць, ты прыйшла нас папярэдзіць, што над Сарочым лесам згушчаюцца хмары? — запытаў Сяргей. — Згушчаюцца? — Аб падполлі нічога не чуваць? — Хто яго ведае...* Няхай. *[Валі] і ў галаву не прыходзіла, што над Лочмелем могуць згусціцца хмары і яна не хутка ўбачыць яго.* Карпаў. *Хмары ўсё згушчаліся над яго [Антолевым] сямейным шчасцем...* Ваданосаў. *Тарас пабачыў, што над ім згусціліся хмары.* Аношкін.

**ХМ`АРЫ ЗГУШЧ`АЮЦЦА (ЗГУШЧ`АЛІСЯ, ЗГУСЦ`ІЛІСЯ) НАД ГАЛАВ`ОЙ** *чыёй, каго. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Каму-н. пагражае небяспека, бяда і пад. **Сін**.: пахне смаленым; хмары згушчаюцца *над кім, над чым.* **Ант**.: хмары рассейваюцца *якія, чаго*;

хмары рассейваюцца над галавой *чыёй, каго. Яўген Фаміч спакойна сабе працаваў, нават не падазраваючы, што хмары ўжо згушчаюцца над яго галавой...* Краўчанка. *Здавалася, хмары так згусціліся над галавой Кейсі, што сухім яму тут не выйсці.* «Полымя». *Віктар і не ведаў, якія хмары згусціліся над яго галавой. Ён прыехаў задаволены, радасны.* Кобец-Філімонава.

**ХМ`АРЫ РАСС`ЕЙВАЮЦЦА (РАСС`ЕЯЛІСЯ)** *якія, чаго. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Знікае пагроза небяспекі, бяды і пад. **Сін**.: хмары рассейваюцца над галавой *чыёй, каго.* **Ант**.: пахне смаленым; хмары згушчаюцца *над кім, над чым*; хмары згушчаюцца над галавой *чыёй, каго. [Левановіч:] Якія ў вас адносіны з Гарлахвацкім? [Чарнавус:] Самыя найлепшыя. [Левановіч:] Што ж, працуйце. Я думаю, што хутка гэтыя хмары рассеюцца.* Крапіва. *Рассеяліся хмары агіднай істэрыі...* «Звязда».

**ХМ`АРЫ РАСС`ЕЙВАЮЦЦА (РАСС`ЕЯЛІСЯ) НАД ГАЛАВ`ОЙ** *чыёй, каго. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Знікае пагроза небяспекі, бяды і пад. **Сін**.: хмары рассейваюцца *якія, чаго.* **Ант**.: пахне смаленым; хмары згушчаюцца *над кім, над чым*; хмары згушчаюцца над галавой *чыёй, каго. Хмары над галовамі разведчыкаў не рассейваліся. Цяпер ужо Сяргей не пакідаў рацыі ў хляве.* Новікаў.

*ХМЕЛЬ* • **ХМ`ЕЛЬ В`ЫЛЕЦЕЎ З ГАЛАВ`Ы** *ў каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. хутка працверазіўся. **Ант**.: хмель ударыў у галаву *каму. Усё набывала рэальныя фарбы, і ён пачынаў шкадаваць аб гэтым. Няўжо толькі таму, што вылецеў хмель з галавы? Можа...* Дамашэвіч.

**ХМ`ЕЛЬ УД`АРЫЎ У ГАЛАВ`У** *каму. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. ап'янеў. **Ант**.: хмель вылецеў з галавы *ў каго. Ці хмель яму [солтысу] ударыў у галаву, ці што, бо ніколі не чулі ад яго такіх выказванняў. Усе нават крыху сумеліся.* Пестрак. *І калі хмель ударыў у галаву Рамуку, ён, доўга не думаючы, бахнуў кулаком з размаху сабе ў грудзі: — Ці ж вы не ведаеце, хто я такі?! Мяне тут кожны сабака ведае.* «Вожык». *У жываце стала цёпла, хмель ударыў у галаву, і механізм разладзіўся: рухі сталі недакладнымі, язык — непаваротлівым, рукі і ногі — цяжкімі.* Тычына.

*ХМЯЛЬКОМ* • **ПАД ХМЯЛЬК`ОМ.** *Акал. і вык. Разм. Неадабр.* У стане ап'янення. **Сін**.: на брывах; на вушах; на падпітку; на ўзводзе; пад газам; пад градусам; пад мухай; пад чаркай; пад шафэ. *Збіраліся з сябрамі пасля змены. Стаў я ўсё часцей прыходзіць пад хмяльком. Адзін, другі раз змоўчала Ларыса...* «Звязда». *Васіль вяртаўся пад хмяльком дамоў, але з дарогі збіўся ды, прамінуўшы дом, у двор суседскі заблудзіўся.* Скрыпка.

*ХНЫ* • **Х`ОЦЬ БЫ ХН`Ы.** *Праст.* **1**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач.

асобы ці адуш. прадмета. Ніяк не рэагуе, не звяртае ніякай увагі на што-н. **Сін**.: і вокам не вядзе; і вухам не весці; <і> не лыс; <і> у вус <сабе> не дзьмуць; не шманае; хоць бы што (у 1 знач.). *І памост пад імі згніў, ім і столь рыхтуе згубу, а яны дык хоць бы хны — слінай цыркаюць праз губу.* Крапіва. *Гэта ж жартачкі, цэлы мех быў, а цяпер толькі на дне засталося... Злезь з воза, лодар і сімулянт! А Мішка хоць бы хны!* Лынькоў. *[Лявон:] Цераз цябе і я сораму не абяруся. А ты хоць бы хны.* Макаёнак.

**2**. *каму. У безас. ужыв.* Нічога не робіцца з кім-н., нічога не дзейнічае на каго-н. **Сін**.: і не знайся (у 2 знач.); хоць бы дзічкі *каму*; хоць бы цвік <*каму*>; хоць бы што (у 2 знач.). *Паўлік мог і зімой басанож палётаць па снезе, потым пагрэцца на печы — і хоць бы хны і нават не кашляне.* Левановіч.

**3**. *каму. У безас. ужыв. Часцей неадабр.* Абсалютна аднолькава, без розніцы, не мае значэння для каго-н., не хвалюе, не кранае каго-н. **Сін**.: абы дзень да вечара *каму* (у 2 знач.); адзін хрэн *каму*; адзін чорт <*каму, для каго*>; адна трасца <*каму*>; адна халера; адно ліха; і гора мала *каму*; і не шум баравы *каму*; ні горача ні холадна *каму ад чаго*; усё адно (у 2 знач.); усё роўна (у 4 знач.); хоць бы што (у 3 знач.); хоць воўк траву еш; хоць патоп; хоць трава не расці <*каму*>; што з гусі вада *з каго, каму*; як з гусака вада *з каго. І гаварыла часам так бойка і такія рэчы, што хаця я быў з Вільні, а яна ўсяго толькі з Мінска — мне рабілася стыдна, а ёй хоць бы хны!* Гарэцкі. *— Ну і рыцар! — Таська высмеяла Жоржа. — Дзяўчына побач нудзіцца, а яму — хоць бы хны!* Аношкін.

*ХОВАНКІ* • **ГУЛЬНЯ Ў ХОВАНКІ.** Гл. гульня.

**ГУЛЯЦЬ У ХОВАНКІ.** Гл. гуляць.

*ХОД* • **ДАВАЦЬ ЗАДНІ ХОД.** Гл. даваць.

**ДАВАЦЬ ХОД.** Гл. даваць.

**ІСЦІ Ў ХОД.** Гл. ісці.

**НА П`ОЎНЫ Х`ОД.** *Акал. Функц. не зам.* Бесперапынна і з максімальнай нагрузкай (рабіць, працаваць, ісці, пусціць і пад.). *Бровар ішоў на поўны ход, а млын стаяў...* Чарнышэвіч. *Катавальня працавала на поўны ход.* Лужанін.

**ПУСКАЦЦА Ў ХОД.** Гл. пускацца.

**ПУСКАЦЬ У ХОД** *што.* Гл. пускаць.

**Х`ОД КАН`ЁМ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Спрытны, абходны манеўр, разлічаны на поспех у чым-н. *[Моцкін:] Юрыдычна ва ўсім вінаваты Гарошка. А Курбатаў — яго зяць. І ён зможа справу загладзіць. У гэтым напрамку я ўжо тое-сёе прадпрыняў. Гэта, так сказаць, — ход канём.* Макаёнак. *У цябе не*

*хапае ўлады заклікаць да парадку свайго архітэктара. Ці гэта ход канём?* Шамякін. *Нават тое, што Цімох памагаў Жаркевічу, раздражняла Юру, ён і ў гэтым падазраваў ход канём.* Карпаў. *Значыць, некаму замінаю. Каму ж? Робіць ход канём: капае не туды, куды трэба, ідзе абыходным манеўрам: няхай сельсавет, афіцыйны орган улады, «сігнал» падасць, а ён і тут убаку.* Грахоўскі.

*ХОДАМ* ● **ГАЛАВА ХОДАМ ХОДЗІЦЬ** *у каго.* Гл. галава.

**П`ОЎНЫМ Х`ОДАМ.** *Акал. Функц. не зам.* **1**. З гранічнай, найбольшай хуткасцю. Пра рух чаго-н. З *правага борта да месца здарэння поўным ходам спяшалася нарвежскае судна.* Крыга.

**2**. Энергічна, інтэнсіўна (праходзіць, ідзе што-н.). *Загудзелі поўным ходам гмахі фабрык і заводаў.* А.Александровіч. — *Дык, кажаш, фарміраванне Чырвонай Арміі ідзе поўным ходам?* — *працягваў распытваць Краеўскі.* Гурскі. У *Кастуська ішла, як сёння кажуць, поўным ходам падрыхтоўка да навучальнага года.* Янкоўскі.

**СВА`ІМ Х`ОДАМ** <u>ісці (пайсці), гнаць (пагнаць)</u> і пад. *Акал. Разм.* Пехатой. **Сін**.: на сваіх дваіх. *Крыкнуў Саша: — Мы сваім дадому ходам! Кіньма снасці з апранахай у чайне.* Вялюгін. *Частку палонных пагналі сваім ходам — у Востраў-Мазавецкі, у Грэнды.* Місько.

*ХОДЗІЦЬ* ● **ГАЛАВА ХОДЗІЦЬ КРУГАМ** *у каго, чыя.* Гл. галава.

**ГАЛАВА ХОДЫРАМ ХОДЗІЦЬ** *у каго.* Гл. галава.

**КУДЫ І КАРОЛЬ ПЯШКОМ ХОДЗІЦЬ.** Гл. кароль.

**МАРОЗ ПА СПІНЕ <ХОДЗІЦЬ>** *у каго, каго, чыёй.* Гл. мароз.

**ПАД СТ`ОЛ ПЯШК`ОМ (П`ЕШШУ, П`ЕШКІ) Х`ОДЗІЦЬ (ХАДЗ`ІЎ, -ЛА, -ЛІ).** *Разм. Часцей жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Зусім малы, малалетні. **Сін**.: ад гаршка паўвяршка; ад зямлі не адрос; аршын з шапкай; жабе па калена; з вузел; кату па пяту. **Ант**.: з каломенскую вярсту; хоць <ты> сабак вешай *на кім. Як іх на розум тут не ставяць, яны ж сваё ўсё права правяць і робяць так, як і рабілі, калі пяшком пад стол хадзілі.* Колас. *Калі іхнія бацькі на франтах войнаў змагаліся за рэвалюцыю, яны яшчэ пяшком хадзілі пад стол.* Каваль. *Ты тады яшчэ, лічы, пад стол пешшу хадзіла.* Дамашэвіч. — *Я Міцяй Каланок. Не пазнаяце?* — *Самы малодшы, здаецца?* — *Ну... Пад стол пешшу хадзіў, калі суседзямі жылі. Памятаеце?* Шамякін. *Ды ён і старэйшы. Калі ты пад стол пешкі хадзіла, атрадам камандаваў.* Карпаў. *Ты яшчэ пешкі пад стол хадзіў, калі я трацій гады і часам жыццём рызыкаваў.* Дуброўскі.

**ЯЗЫК ГЛАДКА ХОДЗІЦЬ** *у каго.* Гл. язык.

**ЯЗЫК ПА-ЗА ВУШШУ ХОДЗІЦЬ** *у каго.* Гл. язык.

*ХОДУ* ● **ДАВАЦЬ ХОДУ** *адкуль, куды.* Гл. даваць.

**З Х`ОДУ.** *Акал. Разм.* **1**. Не робячы прыпынку, не спыняючыся

(рабіць што-н.). *Другія [цягнікі], ведаючы, што станцыю ім з ходу не праскочыць, ужо ля будкі пачынаюць замаруджваць бег...* Навуменка.

**2**. Адразу ж, тут жа. **Сін**.: на ляту; на хаду (у 2 знач.). *Канстанцін Міхайлавіч.. пазначыў перш, што яго найбольш не задавальняла, дзенідзе і паправіў, проста з ходу.* Лужанін. *З ходу гаспадар канторы расказаў паляўнічы анекдот і прапанаваў, пакуль не зайшло сонца, сплаваць да былога Мурамскага манастыра.* Карамазаў.

*ХОДЫ* ● **<УСЕ> ХОДЫ І ВЫХАДЫ.** Гл. хады.

*ХОДЫРАМ* ● **ГАЛАВА ХОДЫРАМ ХОДЗІЦЬ** *у каго.* Гл. галава.

**ЗАХАДЗІЦЬ ХОДЫРАМ.** Гл. захадзіць.

**ХАДЗІЦЬ ХОДЫРАМ.** Гл. хадзіць.

*ХОЛАДНА* ● **НІ ГОРАЧА НІ ХОЛАДНА** *каму ад чаго.* Гл. горача.

*ХОМКУ* ● **НЕ ПА ХОМКУ ШАПКА** <*для каго*>. Гл. шапка.

*ХОЦЬ* ● **КАБ Х`ОЦЬ!** *Выкл. Разм.* Воклііч немагчымасці, адмаўленне чаго-н., пярэчанне на сваё ці чужое выказванне. **Сін.**: дзе там!; куды там! *Казаў жа не раз: хто хоча вучыцца на гуслях – прыходзьце. Каб хоць! І не думаюць нават.* «Маладосць». [*Лепешаў*, с. 41: каб хоць!]

**ХОЦЬ АДБАЎЛЯЙ** *каго, чаго.* Гл. адбаўляй.

**ХОЦЬ БОКАМ КАЦІСЯ.** Гл. каціся.

**ХОЦЬ БОКАМ ХОЦЬ СКОКАМ.** Гл. бокам.

**ХОЦЬ БЫ ДЗІЧКІ** *каму.* Гл. дзічкі.

**ХОЦЬ БЫ Ў АДНЫМ ВОКУ** *ў каго.* Гл. воку.

**ХОЦЬ БЫ ХНЫ.** Гл. хны.

**ХОЦЬ БЫ ЦВІК** <*каму*>. Гл. цвік.

**ХОЦЬ БЫ ШТО.** Гл. што.

**ХОЦЬ ВАДЫ НАПІСЯ.** Гл напіся.

**ХОЦЬ ВАЗАМІ ВАЗІ** *чаго.* Гл. вазі.

**ХОЦЬ ВАЎКОЎ ГАНЯЙ.** Гл. ганяй.

**ХОЦЬ ВОКА ВЫКАЛІ.** Гл. выкалі.

**ХОЦЬ ВОЎКАМ ВЫЙ.** Гл. вый.

**ХОЦЬ ВОЎК ТРАВУ ЕШ.** Гл. еш.

**ХОЦЬ ВЫКРУЧВАЙ.** Гл. выкручвай.

**ХОЦЬ ГАЛАВОЙ АБ СЦЯНУ БІСЯ.** Гл. біся.

**ХОЦЬ ГАЛАВОЙ У ПЯТЛЮ.** Гл. галавой.

**ХОЦЬ ГАЦЬ ГАЦІ** *каго, чаго, кім, чым.* Гл. гаці.

**ХОЦЬ ГРАБЛЯМІ ГРАБІ** *чаго, каго.* Гл. грабі.

**ХОЦЬ ДУШОЙ ЗАГАВЕЙ.** Гл. загавей.

**ХОЦЬ ЖЫВОТ РАСПЕРАЖЫ.** Гл. расперажы.

**ХОЦЬ ЗАБІ.** Гл. забі.

**ХОЦЬ ЗАВАЛІСЯ.** Гл. заваліся.

**ХОЦЬ ЗАЛІСЯ.** Гл. заліся.
**<ХОЦЬ> ЗАПАЛІ НЕ ТРЭСНЕ** *чаго.*Гл. запалі.
**ХОЦЬ З КАЛЕНА ВЫЛАМІ.** Гл. вылам і.
**ХОЦЬ ЗУБЫ ВЫБЕРЫ.** Гл. выберы.
**ХОЦЬ ЗУБЫ НА ПАЛІЦУ КЛАДЗІ** *калі, пры якой умове.* Гл. кладзі.
**ХОЦЬ ІКОНУ ПІШЫ** *з каго.* Гл. пішы.
**ХОЦЬ КАСОЙ КАСІ** *чаго.* Гл. касі.
**ХОЦЬ КАСУ ЗАКЛАДВАЙ** *чаго.* Гл. закладвай.
**ХОЦЬ КОЛ НА ГАЛАВЕ ЧАШЫ** *каму.* Гл. чашы.
**ХОЦЬ КРУЦЬ ХОЦЬ ВЕРЦЬ.** Гл. круць.
**ХОЦЬ КУДЫ.** Гл. куды.
**ХОЦЬ ЛАЖЫСЯ І ПАМІРАЙ.** Гл. лажыся.
**ХОЦЬ НА ВЫСТАЎКУ <ВЯЗІ>.** Гл. выстаўку.
**ХОЦЬ НА КАВАЛКІ РАЗРЫВАЙСЯ.** Гл. разрывайся.
**ХОЦЬ НА КРАЙ СВЕТУ.** Гл. край.
**ХОЦЬ НА САБАКУ ВЫЛІ.** Гл. вылі.
**ХОЦЬ ПА ВЕТРЫ ПУСКАЙ.** Гл. пускай.
**ХОЦЬ ПАЗЫЧ** *каму чаго.* Гл. пазыч.
**ХОЦЬ ПАМРЫ.** Гл. памры.
**ХОЦЬ ПАТОП.** Гл. патоп.
**<ХОЦЬ> ПЛОТ ГАРАДЗІ** *кім, каго.* Гл. гарадзі.
**ХОЦЬ РАЗАРВІСЯ** *каму.* Гл. разарвіся.
**ХОЦЬ РАСПЕРАЖЫСЯ.** Гл. распеbesražыся.
**ХОЦЬ РЭПКУ СПЯВАЙ.** Гл. спявай.
**ХОЦЬ РЭПУ СЕЙ.** Гл. сей.
**ХОЦЬ СВЯТЫХ ВЫНОСЬ.** Гл. выносЬ.
**ХОЦЬ СКРОЗЬ ЗЯМЛЮ ПРАВАЛІСЯ** *<каму>.* Гл. праваліся.
**ХОЦЬ СТОЙ ХОЦЬ ПАДАЙ.** Гл. стой.
**ХОЦЬ СЦЕНЫ Ў ХАЦЕ АБКЛЕЙВАЙ** *чаго.* Гл. абклейвай.
**ХОЦЬ СЯКЕРУ ВЕШАЙ.** Гл. вешай.
**ХОЦЬ ТАК ХОЦЬ СЯК.** Гл. так.
**ХОЦЬ ТРАВА НЕ РАСЦІ** *<каму>.* Гл. трава.
**ХОЦЬ <ТЫ> ВЕШАЙСЯ.** Гл. вешайся.
**ХОЦЬ <ТЫ> ВУШЫ ЗАТЫКАЙ.** Гл. затыкай.
**ХОЦЬ <ТЫ> ВЯРОЎКІ ВІ** *з каго.* Гл. ві.
**ХОЦЬ ТЫ ГАЛАВОЙ НАЛАЖЫ.** Гл. налажы.
**ХОЦЬ <ТЫ> ГВАЛТ КРЫЧЫ.** Гл. крычы.
**ХОЦЬ <ТЫ> ДА РАНЫ КЛАДЗІ** *каго.* Гл. кладзі.
**ХОЦЬ <ТЫ> ЖЫВЫ Ў ЗЯМЛЮ ЛЕЗЬ.** Гл. лезь.
**ХОЦЬ <ТЫ> ЗАРЭЖ.** Гл. зарэж.
**ХОЦЬ <ТЫ> ІГОЛКІ ЗБІРАЙ.** Гл. збірай.

**ХОЦЬ ТЫ КРЫЖАМ ЛЯЖ.** Гл. ляж.

**ХОЦЬ <ТЫ> ЛОПНІ.** Гл. лопні.

**ХОЦЬ ТЫ МАКАМ САДЗІСЯ.** Гл. садзіся.

**ХОЦЬ <ТЫ> НА ВОЎКА ЎЗЛЕЗЬ.** Гл. узлезь.

**ХОЦЬ <ТЫ> ПЛАЧ.** Гл. плач.

**ХОЦЬ <ТЫ> САБАК ВЕШАЙ** *на кім.* Гл. вешай.

**ХОЦЬ <ТЫ> У ВІР ГАЛАВОЙ.** Гл. вір.

**ХОЦЬ <ТЫ> У ЛОБ СТРАЛЯЙ** *каму.* Гл. страляй.

**ХОЦЬ ТЫ Ў САБАКІ ВАЧЭЙ ПАЗЫЧ** *каму.* Гл. пазыч.

**ХОЦЬ ТЫ ШТО.** Гл. што.

**ХОЦЬ У ВУХА КЛАДЗІ** *каго.* Гл. кладзі.

**ХОЦЬ У ДАМАВІНУ КЛАДЗІ** *каго.* Гл. кладзі.

**ХОЦЬ У ПЛУГ ЗАПРАГАЙ** *каго.* Гл. запрагай.

**ХОЦЬ У ПЯТЛЮ ЛЕЗЬ.** Гл. лезь.

**ХОЦЬ У ПЯТНІЦУ.** Гл. пятніцу.

**ХОЦЬ У ТРУНУ ЛАЖЫСЯ.** Гл. лажыся.

**ХОЦЬ ХРЭН ДЗЯРЫ** *аб што.* Гл. дзяры.

**ХОЦЬ ШАРОМ ПАКАЦІ** *дзе.* Гл. пакаці.

*ХОЦЬКІ* ● **Х\`ОЦЬКІ-НЯХ\`ОЦЬКІ.** *Акал. Праст.* Насуперак жаданню, незалежна ад жадання, старання каго-н. **Сін**.: воленс-ноленс; воляй-няволяй; рад не рад; хочаш не хочаш. *Прыйшлося хоцькі-няхоцькі добра развважыць, як жыць далей.* Ядвігін Ш. *Суд цягнуўся два гады. Выйграў пан. Хоцькі-няхоцькі прыйшлося выбрацца з роднага гнязда.* Бядуля. *Прашалэндае, здарыцца, хоцькі-няхоцькі збочыўшы з гасцінца, мясцовы, суседні падпанак на мокрай, нягеглай пары ў кракаўскіх хамутах.* Брыль.

*ХОЧА* ● *Як* **ХОЧА ЛЕВАЯ НАГА** *каго, чыя.* Гл. нага.

*ХОЧАЦЦА* ● **<І> Х\`ОЧАЦЦА І К\`ОЛЕЦЦА** *<каму>. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н., баючыся цяжкасцей, не адважваецца зрабіць што-н. жаданае. — *Скажу па праўдзе, Рыгор, і хочацца і колецца... Вось убілася ў галаву і ніяк не змірыцца з думкаю, што... Люблю, прызнацца... — Тады набок сумненні... Дзейнічай...* Гартны. *Ажаніся — клопату набярэшся многа ты, нажывеш бяды. Будзе шуму-лопату і людскога рогату, і свішчы тады. Хочацца і колецца — лёгка заняволіцца: дзеўка-крапіва!* Колас.

*ХОЧАШ* ● **К\`ОЛЬКІ Х\`ОЧАШ.** *Разм.* **1**. *Акал.* Вельмі многа (даваць, адпускаць і пад.). **Сін**.: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу *<чаго>*; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вучэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да

халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. Грашай на шпіёнскую і падрыўную прапаганду прэзідэнт адпускае колькі хочаш.* «Полымя». *Табе, бадай, можна выпусціць і такога хлопца, як Ілья, бо ў цябе знойдзецца іх колькі хочаш, а мне — іншая рэч.* Хадкевіч.

**2**. У *знач. вык.* Несумненна, цалкам дапушчальна. *[Цётка:] А можа такое быць, што ён [радыст] падасланы? [Рунец:] Колькі хочаш. [Цётка:] Вось тут і ўгадай* Крапіва.

**Х`ОЧАШ НЕ Х`ОЧАШ.** *Акал. Разм.* Насуперак жаданню, незалежна ад жадання, старання каго-н. **Сін**.: воленс-ноленс; воляй-няволяй; рад не рад; хоцькі-няхоцькі. *Зусім нечакана паўстала і перад Рыгорам пытанне: бывае знянацку складуцца ўмовы і хочаш не хочаш мусіш пакінуць Пецярбург?* Гартны. *Хочаш не хочаш, а прыходзіцца лічыцца з рэальнымі абставінамі.* Крапіва. *За сценамі дождж. Хочаш не хочаш, а трэба было ляжаць.* Караткевіч. *Бяда прымушае людзей брацца за зброю, хочаш не хочаш.* Дамашэвіч.

*ХРАНА* ● **НА ХРАН`А.** *Акал. Праст. Незадав.* Навошта, для чаго. **Сін**.: да д'ябла (у 3 знач.); на воўка; на ліха; на халеру; на хваробу; на чорта; на які ляд; на які хрэн; на які чорт; на якога чорта; на якое ліха; на якую трасцу; на якую халеру; якога ліха (у 1 знач.); якога ражна (у 1 знач.); якога хрэна (у 1 знач.); якога чорта (у 1 знач.). — *Вінтоўку не бярэш? — А на храна? Тут да самага Петразаводска жывой душы няма.* Шамякін.

**НІ ХРАН`А.** *Акал. Праст. Груб. Неадабр.* Зусім нічога (няма, не відаць і пад.). **Сін**.: голаму за пазуху; дзірка ад абаранка; ні грана; ні сінь-пораху; ні фіга; ні халеры; ні чорта; ні шыша. *Во цяпер бачу. Але ж ні храна цябе відаць не было.* Крапіва. *А «стары конь» скардзіцца, што няма цікавых сюжэтаў. Залез у нейкія архівы і ні храна не*

*бачыць вакол сябе.* Шамякін. «*Ні храна вы не ведаеце, — падумаў Чаротны, — Каб ведалі дык не дапытвалі б*». Асіпенка.

*ХРАПАВІЦКАГА* ● **ЗАДАВАЦЬ ХРАПАВІЦКАГА.** Гл. задаваць.

*ХРАПАКА* ● **ДАВАЦЬ ХРАПАКА.** Гл. даваць,

*ХРОСНЫ* ● **ХРОСНЫ БАЦЬКА.** Гл. бацька.

*ХРЫБЕТ* ● **ЗЛАМАЦЬ ХРЫБЕТ** *каму. Зак. да* **ЛАМАЦЬ ХРЫБЕТ** *каму.*

**ЛАМАЦЬ ХРЫБЕТ** *каму.* Гл. ламаць.

**СТАНАВЫ ХРЫБЕТ** *чаго, чый.* Гл. жыла.

*ХРЫБЕТНІКА* ● **ЖЫВОТ ДА ХРЫБЕТНІКА ПРЫРОС** *чый, у каго.* Гл. жывот.

*ХРЫБТА* ● **ЛАМАННЕ ХРЫБТА** *каму, чаму.* Гл. ламанне.

*ХРЫСТА* ● **ЯК У ХРЫСТА ЗА ПАЗУХАЙ.** Гл. бога.

*ХРЫСТОВА* ● **БОГАВА (ХРЫСТОВА) НЯВЕСТА.** Гл. нявеста.

*ХРЫСТОМ* ● **ХРЫСТ`ОМ-Б`ОГАМ** <u>*прасіць.*</u> *Акал. Разм.* Вельмі шчыра і настойліва. **Сін**.: напраміды бог. *Падаконнем не раз я з мяшэчкам хадзіў, міласціны ў вас хрыстом-богам прасіў.* Колас. *Адпусціў бы ты мяне, дзядзька Дзяніс, дамоў адсюль. Хрыстом-богам прашу.* Чыгрынаў.

*ХРЫСЦІЎ* ● **ДУРНЫ ПОП ХРЫСЦІЎ** *каго.* Гл. поп.

**ШАЛЁНЫ ПОП ХРЫСЦІЎ** *каго.* Гл. поп.

*ХРЫСЦІЦЬ* ● **ДЗЯЦ`ЕЙ НЕ ХРЫСЦ`ІЦЬ** *з кім. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не быць у блізкіх адносінах, не мець нічога агульнага з кім-н. *Ён мне ні сват, як той казаў, ні брат. Як кажа прыказка, мы з ім дзяцей не хрысцілі.* Чорны. *Няхай цябе Янкам завуць, а адкуль жа табе вядома, як мяне самога завуць. Я ж з табою дзяцей не хрысціў?..* Лецка.

*ХРЫШЧЭННЕ* ● **БАЯВ`ОЕ ХРЫШЧ`ЭННЕ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* **1**. Першы ўдзел у баі. *Знішчэнне генерала было баявым хрышчэннем юнага мсціўца.* Гурскі. *Ужо было на рахунку Самойлава баявое хрышчэнне пад Ржэвам, былі шпіталі пасля цяжкага ранення ў грудзі, і вяртанне ў строй, і дзесяткі новых вялікіх і малых баёў.* «Настаўн. газ.».

**2**. Першае сур'ёзнае выпрабаванне ў якой-н. справе. *І вось настаў чаканы дзень. Механізаваныя групы абодвух атрадаў земляробчага цэха выйшлі на сваё баявое хрышчэнне.* Дуброўскі. *Найбольш, запомнілася баявое хрышчэнне ў 1930 годзе, калі ён [М.Танк] адважыўся везці нелегальную камуністычную літаратуру на вачах у паліцэйскіх, якія ехалі разам з ім у адным аўтобусе.* Шкраба.

*ХРЭН* ● **АДЗ`ІН ХР`ЭН** *каму. У безас. ужыв. Праст. Незадав.* Абсалютна аднолькава, без розніцы, не мае значэння для каго-н. **Сін.**: абы дзень да вечара *каму* (у 2 знач.); адзін чорт <*каму, для каго*>;

адна трасца <*каму*>; адна халера; адно ліха; і гора мала *каму*; і не шум баравы *каму*; ні горача ні холадна *каму ад чаго;* усё адно (у 2 знач.); усё роўна (у 4 знач.); хоць бы хны (у 3 знач.); хоць бы што (у 3 знач.); хоць воўк траву еш; хоць патоп; хоць трава не расці <*каму*>; што з гусі вада *з каго, каму*; як з гусака вада *з каго. Думаў, што ў горадзе лепш. Тры гады ў дэпо на чыгунцы працаваў. Адзін хрэн.* Чарнышэвіч. *Ну, напрыклад, хто і як правіць там, наверсе, то што яму [селяніну] да таго?.. Па вялікім рахунку яму – адзін хрэн.* «ЛіМ».

**НА ЯК`І ХР`ЭН.** *Акал. Праст. Груб. Незадав.* Навошта, для чаго. **Сін**.: да д'ябла (у 3 знач.); на воўка; на ліха; на халеру; на хваробу; на храна; на чорта; на які ляд; на які чорт; на якога чорта; на якое ліха; на якую трасцу; на якую халеру; якога ліха (у 1 знач.); якога ражна (у 1 знач.); якога хрэна (у 1 знач.); якога чорта (у 1 знач.). *Нагнала іх з Загурскім на нашу галаву. Культуры ім захацелася. А на які хрэн мне іх культура?* Асіпенка. *На які хрэн трэба было табе паскудзіць групе? На чорта табе здалася гэтая дакладная, якую ты падсунуў Змітровічу?* Радкевіч. *На які хрэн, думаеш, сыну спатрэбіўся бацька ў горадзе? Засумаваў па бацьку? Прыгрэць яго захацеў на старасці?.. Не. Захацеў у рай заехаць на яго старым гарбу. Во як!..* Карамазаў. *Антон сплюнуў: — Мне гэта размазня адразу настрой сапсавала. На які хрэн такіх з сабой браць?* Кацюшэнка.

**ХОЦЬ ХРЭН ДЗЯРЫ** *аб што.* Гл. дзяры.

**ХР`ЭН З `ІМ (З ТАБ`ОЙ, З `ЁЙ, З В`АМІ, З `ІМІ).** *Выкл. Праст. Груб.* Няхай будзе так, можна пакінуць без увагі. Выказванне згоды, прымірэння, уступкі і пад. **Сін**.: алах з табой; бог з табой; кадук з ім; ліха з ім; ліха яго бяры; трасца яго бяры; халера з ім; халера яго бяры; хвароба з ім; чорт з ім; чорт яго бяры. — *Напіша нампаліт дакладную ў палітаддзел? — [Кузаеў] уздыхнуў, расцёр ботам недакурак. — Ну, ды хрэн з ім. Няхай піша.* Шамякін. — *Толькі суп. — А другога ты ўжо не ясі? — Ну, хрэн з табой, давай і другое.* Брыль. — *Ну, па дакументах я Бараноўскі... — Хрэн з табой, хай Бараноўскі. Нам усё роўна.* Быкаў.

**ХР`ЭН У В`ОЧЫ** *каму. Выкл. Праст. Груб.* Выказванне незадаволенасці, абурэння, здзіўлення і пад. **Сін**.: каб на яго ліха; кадук на яго; кадук яго вазьмі; ліха матары <*чыёй*>; ліха на яго; ліха яго галаве; трасца яго галаве; трасца яго матары; трасца яму ў бок; хвароба на яго; чэмер на яго галаву. *[Ціхон:] Хрэн табе ў вочы, — жонка, а жонка! Хадзі ды паўзірайся, як дачка твая з Грышкам Цюхайчыкам галубіцца!* Дунін-Марцінкевіч. — *Чаго вы, хрэн вам у вочы, бунтуеце? — паблажліва загаварыў войт.* Якімовіч. *Адно што*

*выключылі святло на прахадной, а жонка з-за вугла — вэрхал узняла! Х-гэх... Вельмі пільная, хрэн ёй у вочы. Цікавала, відаць.* Якавенка.

**ХР`ЭН ЯГ`О (Я`Е, `ІХ, ЦЯБ`Е, В`АС) В`ЕДАЕ (ЗН`АЕ).** *Часцей у знач. галоўн. ск. Праст. Груб. Неадабр.* Невядома. **Сін**.: агонь яго ведае; алах яго ведае; бог яго ведае; вятры яго ведаюць; кадук яго ведае; ліха яго ведае; немач яго ведае; нячысцік яго ведае; трасца яго ведае; халера яго ведае; хвароба яго ведае; хто яго ведае; чорт яго ведае. — *Што мы з імі будзем рабіць?.. — Хрэн іх ведае.* Асіпенка. *Хрэн яго ведае, як называецца мой паўстанак.* Крыга. — *Аднак мне прыемна, што яны кланяюцца. Вы думаеце, няшчыра? — Хрэн іх знае — хто шчыра, хто — няшчыра, у душу не залезеш. Але верыць ім не магу.* Шамякін.

*ХРЭНА* ● **ЯК`ОГА ХР`ЭНА.** *Праст. Груб.* **1**. *Акал.* Чаму, для чаго, з якой мэтай (робіць хто-н. што-н.). Выказванне абурэння чыімі-н. дзеяннямі, паводзінамі. **Сін**.: да д'ябла (у 3 знач.); на воўка; на ліха; на халеру; на хваробу; на храна; на чорта; на які ляд; на які хрэн; на які чорт; на якога чорта; на якое ліха; на якую трасцу; на якую халеру; якога ліха (у 1 знач.); якога ражна (у 1 знач.); якога чорта (у 1 знач.). *Якога ж хрэна тады ён маўчыць? Мо сігналы праваронілі?* Быкаў. — *Што вы хочаце сказаць канкрэтна? — Якога хрэна вы цераз галаву палезлі з гэтым кароўнікам? Хто вас прасіў ці ўпаўнаважваў?* Лазуркін.

**2**. Дап. Чаго (трэба, не хапае каму-н.). Выказванне абурэння чыімі-н. дзеяннямі, паводзінамі. **Сін**.: якога ліха (у 2 знач.); якога ражна (у 2 знач.); якога чорта (у 2 знач.).

**3**. У *знач. мадальнай часціцы. Ужыв. перад наз.* Выказванне іранічных, скептычных і пад. адносін да каго-, чаго-н. **Сін**.: які <там> чорт; *які ў* чорта *хто, што. — Што ты прывёз? — Ды гэта самае... Тол. Ці як яго... — Якога хрэна тол? Аманіт? — сярдзіта запытаў Брытвін, шырэй разгортваючы край мяшка.* Быкаў. — *Федзя, дай я цябе пацалую! За тое пацалую, што ты артыст! — Якога хрэна артыст! Я — качагар!* Шлег.

*ХТО* ● **НЕ БОГ ВЕДАЕ ХТО.** Гл. бог.

**НЕ ХТ`О `ІНШЫ `ЯК.** *У знач. ўзмацн. часціцы. Кніжн.* Іменна, толькі; якраз той, пра каго гаворыцца далей. *Перад Залеўскім стаяў не хто іншы як той самы «ціхі і лагодны сумлічанін»...* Чорны. *Цяпер я пазнаў чалавека — гэта быў не хто іншы як Гуртавенка.* Сачанка. *Не ад каго іншага як ад нас заробкі залежаць.* Асіпенка.

**ХТ`О В`ЕДАЕ.** У *знач. галоўн. ск. ці акал. Разм.* Невядома (што, хто, колькі, як, адкуль і пад.). **Сін**.: адзін алах ведае; адзін бог <святы> ведае; адзін чорт ведае; бог ведае; ліха ведае; чорт ведае; чорт

ведама. *Дзве дзяўчынкі, я трэці, падабраўшы дзве вяроўкі, бегам, падлётваем хто ведае, у якую вышыню.* Дубоўка. *Хто ведае, куды бягуць гэтыя хмаркі, дзе спыняцца яны?..* Галавач. *Косцік не ведаў, што яму рабіць. Перш хацеў кінуцца з агародчыка з рэвальверам на тых двух і таксама крыкнуць «рукі ўверх». Але хто ведае, як яно лепш?* Баранавых. *Але хто ведае, ці ўдасца цяпер Жаўтыху перайначыць загад камбата?* Быкаў.

**ХТ`О ДЗ`Е.** *Акал. Разм.* У розных месцах (быць, рабіць, спаць і пад.). *У нашай вёсцы толькі адна Жывагладзіха нічога не робіць, а ўсе астатнія хто дзе: калі не ў саўгасе, то ў горадзе.* Кулакоўскі. *Партызаны спалі хто дзе: на фурманках, на захопленых аўтамашынах і проста на сырой зямлі, пад дубамі.* Шамякін. *Знямоджаныя, паселі хто дзе, а перадыхнуўшы, танцавалі зноў — вальсы, танга.* Ярашэвіч.

**ХТ`О `ЁСЦЬ ХТ`О**. *У знач. дадан. ск. Функц. не зам.* Што ўяўляюць сабой тыя ці іншыя людзі, чаго варты хто-н. *Беларусь была на перыферыі падзей, але і для яе пераварот стаў экзаменам, праверкай: хто ёсць хто.* Законнікаў. *Апошні год быў вельмі цяжкі і багаты на выпрабаванні і добра паказаў, хто ёсць хто.* «ЛіМ». *Іван Іванавіч прапанаваў галасаванне па яго папраўках правесці пайменна, каб гэтыя самыя медыкі і педагогі ўбачылі, хто ёсць хто.* «Нар. воля». *Дастаткова «дапытаць з прыдзіркамі» ўсіх, хто на той час працаваў у Цэнтральным аддзеле, — і стане зразумелым, хто ёсць хто.* Праўдзін.

**ХТ`О КУД`Ы.** *Акал. Разм.* У розныя бакі (уцякаць, бегчы, разыходзіцца і пад.). **Сін**.: куды каторы. *Ніхто не астаўся начаваць на папялішчы — паразыходзіліся хто куды: у суседнія вёскі, падаліся на ўзлесак да хвойніку.* Чорны. *Паўлавы аднагодкі раз’ехаліся хто куды, равесніцы павыходзілі замуж.* Грахоўскі. *Пагубляліся ўзводы, роты хто куды разбрыліся барамі.* Барадулін. А *рэшткі недабітае арды, забыўшыся на славу і на хана, пабеглі з поля бою хто куды.* А.Вольскі.

**ХТ`О КУД`Ы ПАШЛ`Е.** *Часцей дап. Разм. Іран.* Падсобны працаўнік, рознарабочы. **Сін**.: старшы куды пашлюць. *[Іван:] Што я ў вас раблю? Усё! Хто куды пашле.* Макаёнак. *Ужо і не ведаю, як там яно было, але ўдалося яму прыладзіць мяне ў рэдакцыю, на пасаду «хто куды пашле»...* Васілёнак. *— Маю тры пасады адразу, — усміхнуўся Аляксей. — Конюх, заўхоз і проста хто куды пашле.* Грахоўскі.

**ХТ`О Ў Л`ЕС ХТ`О ПА ДР`ОВЫ.** *Акал. Разм. Часцей неадабр.*

Нязладжана, нядружна, уразброд (спяваць, гаварыць і пад.). **Сін**.: хто ў плот хто ў гарод. *Скрыпка гучала, як нямазаныя колы, дзеці цягнулі мелодыю песні, як гаворыцца, хто ў лес хто па дровы.* Лынькоў. *У другім канцы два п'яныя галасы — хто ў лес хто па дровы — дралі песню.* Крапіва. *Адным словам, не было ладу з гэтай гамонкі, цягнулі хто ў лес хто па дровы.* Рылько.

**ХТ`О Ў ПЛ`ОТ ХТ`О Ў ГАР`ОД.** *Акал. Разм. Часцей неадабр.* Нязладжана, нядружна, уразброд (спяваць, гаварыць і пад.). **Сін**.: хто ў лес хто па дровы. *Той-сёй пачаў нясмела дапамагаць [спяваць], але мала хто добра ведаў словы, да таго ж Стасёк адно цягаў гармонік. Атрымлівалася хто ў плот хто ў гарод.* Жарнасек.

**ХТ`О ЯГ`О (Я`Е, `ІХ, ЦЯБ`Е, В`АС) В`ЕДАЕ.** *У безас. ужыв. ці ў знач. галоўн. ск. Разм.* Невядома. **Сін**.: агонь яго ведае; алах яго ведае; бог яго ведае; вятры яго ведаюць; кадук яго ведае; ліха яго ведае; немач яго ведае; нячысцік яго ведае; пярун яго ведае; трасца яго ведае; халера яго ведае; хвароба яго ведае; хрэн яго ведае; чамярыца яго ведае; чорт яго ведае. *[Зосі] у гэты момант здалося: з тым Назарэўскім можна было пра ўсё гаварыць, з гэтым — хто яго ведае.* Чорны. *[Настуля:] Дзядулечка, да нас у двор заязджаюць! [Дзед Бадыль:] Хто заязджае? [Настуля:] А хто іх ведае.* Крапіва. — *Хто яго ведае, недзе як звалокся, дык от другі дзень як дома няма, — маніла Вінцэсіха прыезджаму чалавеку.* Калюга.

**ХТ`О `ЯК.** *Акал. Разм.* Неаднолькава, па-рознаму (рабіць што-н.). *Палоскі косяць хто як: на адной пракосы кладуцца ўздоўж, на другой — упоперак.* Жычка. *[Будаўнікі] сядзелі, ляжалі — хто як — на шчытах ля прарабкі і вяла перагаворваліся.* Вышынскі.

**ЯК (НІБ`Ы) ХТ`О ПАДМЯН`ІЎ** *каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. стаў зусім іншым (лепшым ці горшым). **Сін**.: як падмянілі *каго. Не толькі Алеся, нават Адама як хто падмяніў. Прыходзілі дамоў мокрыя, асклёлыя, а ў вачах столькі бадзёрасці і весялосці!* Чарнышэвіч. *Дзве мінуты захапляемся цудам тэхнікі, тады пачынаю ўрок. Дзяцей нібы хто падмяніў. Уважліва слухаюць і аддана глядзяць у вочы.* Карпюк.

*ХУДА* ● **Х`УДА-Б`ЕДНА.** *Акал. Разм.* Найменш, не менш за тое (пра што гаворыцца). **Сін.**: сама меней. **Ант.**: сама большае. *Нас жа, нагадаю, тры сям'і, худа-бедна, а па пяць мяхоў [бульбы] трэба.* В.Ткачоў. *Дахаты вярнуліся «нагружаныя» пакупкамі. — Худа-бедна, аднак сёння галадаць не будзем, — задаволена выказаў свае думкі ўголас Чорны.* Райчонак.

*ХУТЧЭЙ* ● **ХУТЧ`ЭЙ ЗА ЎС`Ё.** *У знач. пабочн. сл. Функц. не зам.* Найбольш верагодна. **Сін**.: глядзі што; трэба думаць; як відаць.

*Хутчэй за ўсё, гэта пачалося праз бацьку. Ён быццам стаяў на варце таго, што адбывалася ў жыцці.* Карпаў. *З поўдня на поўнач высока ў небе ляцеў самалёт, цяжка было вызначыць, чый ён. Хутчэй за ўсё, што не наш.* Дамашэвіч.

**Ц**

*ЦАГЛІНЫ* ● *Морда* **ЦАГЛІНЫ ПРОСІЦЬ.** Гл. просіць.

*ЦАЛАВАЦЬ* ● **ЦАЛАВ`АЦЬ Р`УКІ І Н`ОГІ** *каму. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі прасіць, маліць каго-н. аб чым.-н. **Сін**.: біць паклоны (у 2 знач.); біць чалом (у 2 знач.); кланяцца ў ногі *каму*; падаць на калені *перад кім. [Ляснік] мне рукі і ногі цалаваў, абы я пусціў яго жывога.* Чарнышэвіч.

*ЦАЛКАМ* ● **Ц`АЛКАМ І П`ОЎНАСЦЮ.** *Акал. Функц. не зам.* У поўнай меры. **Сін**.: на ўсе сто (у 1 знач.). *[Матусевіч:] А ў прынцыпе я з вамі згодзен, як кажуць, цалкам і поўнасцю.* Матукоўскі. *А чаму такая спешка?.. – Адкажу. Мне неабходна закрыць гэтае пытанне яшчэ да ад’езду. Задавальняе? – Цалкам і поўнасцю...* «Полымя».

*ЦАНА* ● **ГР`ОШ ЦАН`А <У БАЗ`АРНЫ ДЗ`ЕНЬ>** *каму, чаму. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-, што-н. не мае ніякай каштоўнасці, нічога не варты (не варта). **Сін**.: ломаны грош цана *каму, чаму. Калі немец будзе адчуваць сябе гаспадаром у нашым родным кутку — грош нам цана.* Чорны. *Грош цана такой лаяльнасці, калі яна мяжуе са звычайнай нейтральнасцю.* Лынькоў. *[Бажашуткава:] Паперка! Грош ёй цана! Колькі я такіх паперак за сваё жыццё падпісала!* Матукоўскі. *Паказанню такому грош цана ў базарны дзень.* Машара. *А хіба ж гэта певень! Дрэнь гэта, а не певень! Грош цана яму ў базарны дзень...* Пянкрат.

**Л`ОМАНЫ ГР`ОШ ЦАН`А** *каму, чаму. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-, што-н. не мае ніякай каштоўнасці, нічога не варты (не варта). **Сін**.: грош цана <у базарны дзень> *каму, чаму. Трэба пераканаць людзей, рассеяць страх, зрабіць усё, каб людзі самі пасмяяліся з сябе, з таго, што паддаліся паніцы, паверылі прыблудзе-цыгану, і спакойна спалі, спакойна працавалі. Калі я гэтага не зраблю — цана мне, кіраўніку, ломаны грош...* Сачанка.

*ЦАНЕ* ● **У ЦАН`Е.** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. адуш. ці канкр. прадмета. Дорага каштуе, высока цэніцца. *Карася.. не заўсёды знойдзеш на рынку. Дый у цане яны ўсё-такі.* Крапіва. *Павядзём Чарнушку прадаваць, пакуль каровы ў цане, па траве ходзячы...* Пальчэўскі. *Яйкі сёння ў цане будуць... Дачнікаў наехала...* Шамякін. *[Дзед Цыбулька:] Цяпер вясна — бульба ў цане... Паку-уль маладая*

*падрасце... У цане яна.* Макаёнак.

*ЦАНОЙ* ● **ДАРАГ`ОЙ ЦАН`ОЙ** здабываць, дасягаць і пад. *Акал. Функц. не зам.* Затратай вялікіх намаганняў, вялікімі ахвярамі. *Я слухаў цябе, а сам думаў... Думаў аб тым, якой дарагой цаной здабыў народ гэтае харагство.* Шашкоў. *Ваша воля, браты мае, куплена дарагою цаной — крывёю.* Панчанка.

**ЛЮБ`ОЙ ЦАН`ОЙ.** *Акал. Функц. не зам.* Якімі толькі можна сродкамі, шляхамі, намаганнямі (дабівацца, дасягаць, утрымаць і пад.). **Сін**.: кроў з носа, а; <усімі> праўдамі і няпраўдамі; хоць з калена вылямі; хоць <ты> лопні (у 2 знач.); што б там ні было. *Любой цаной мы павінны ўтрымаць лес за сабою, каб нага ворага не ступіла ў яго...* Пестрак. *Чалавек любою цаною дзяржаўныя планы выконваў, за ўвесь раён адказваў, а пра яго цяпер байкі выдумляюць.* Грахоўскі.

*ЦАНУ* ● **ВЕДАЦЬ САБЕ ЦАНУ.** Гл. ведаць.

**ВЕДАЦЬ ЦАНУ** *каму, чаму.* Гл. ведаць.

**НАБІВАЦЬ САБЕ ЦАНУ.** Гл. набіваць.

*ЦАНЫ* ● **ЦАНЫ НЯМА** *каму, чаму.* Гл. няма.

*ЦАПАМ* ● **Ц`АПАМ-Л`АПАМ (ЦАП`ОМ-ЛАП`ОМ).** *Акал. Разм. Неадабр.* Вельмі хутка, паспешліва і абыякава (рабіць што-н.). **Сін**.: абы дзень адбыць; абы дзень да вечара (у 1 знач.); абы з рук; з плеч ды ў печ (у 2 знач.); з пятага на дзесятае (у 2 знач.); па канец рук; праз пятае ў дзесятае (у 2 знач.); пусці паваллюся (у 2 знач.); спусціўшы рукавы; сяк-так (у 2 знач.); сяк-так накасяк <абы не па-людску>; цапу-лапу; цераз пень калоду (у 1 знач.); цяп ды ляп. **Ант**.: душы паслухаючы; з аганьком; закасаўшы рукавы; не пакладаючы рук. *Барыс Іосіфавіч зусім не збіраўся па складзенай цапам-лапам цыдульцы праводзіць меліярацыю.* Дуброўскі. *Во так — цапом-лапом, а божа ж ты мой! Трэба было б і ў Гапаровічы падскочыць, то ў Ганны што прыхапіла б, а то ж табе і палажыць няма чаго.* Гіль.

*ЦАПУ* ● **ЦАП`У-ЛАП`У.** *Акал. Разм. Неадабр.* Вельмі хутка, паспешліва і абыякава (рабіць што-н.). **Сін**.: абы дзень адбыць; абы дзень да вечара (у 1 знач.); абы з рук; з плеч ды ў печ (у 2 знач.); з пятага на дзесятае (у 2 знач.); па канец рук; праз пятае ў дзесятае (у 2 знач.); пусці паваллюся (у 2 знач.); спусціўшы рукавы; сяк-так (у 2 знач.); сяк-так накасяк <абы не па-людску>; цапам-лапам; цераз пень калоду (у 1 знач.); цяп ды ляп. **Ант**.: душы паслухаючы; з аганьком; закасаўшы рукавы; не пакладаючы рук. *Возьмецца пажылы чалавек якую далікатную работу рабіць — рукі ў яго трасуцца. А як перапуд які, дык і зусім тады ходырам ходзяць — ведама цапу-лапу...* Калюга. *Уладзік Падольскі не з палахлівых хлопцаў. Ён проста заўсёды паступае з аглядкай. І ўсю дарогу не так, як Міцюк: цапу-лапу, бух!..*

Грамовіч.

*ЦАР* ● **<І> Ц`АР І Б`ОГ <І В`ОІНСКІ НАЧ`АЛЬНІК>.** *Мн. не ўжыв. Вык. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Самае галоўнае, адзінае начальства. *Што скажа ўся тая аколіца былой засцянковай шляхты, для якой ксёндз быў, як кажуць, і цар і бог?* Пестрак. *Паліцыя тут — і цар і бог у вёсцы, сялян падаткі душаць.* Машара. *[Альховіч:] А я што табе, другому: цар, бог і воінскі начальнік?.. Я чалавек маленькі! Я прадаю, што маю!* Петрашкевіч. *Дэбаць гаварыў такім тонам, нібы ён і бог і цар і воінскі начальнік.* Сіняўскі. *— Думаў, займаю пасаду, дык цар і бог, аж не — бачу... — Мірошнікаў нечакана асекся...* Рубанаў.

*ЦАРА* ● **БЕЗ ЦАР`А Ў ГАЛАВ`Е.** *Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Недалёкага, абмежаванага розуму. **Сін**.: без галавы; без клёпкі ў галаве; з прыветам. **Ант**.: з галавой (у 1 знач.); з царом у галаве (у 1 знач.); у цемя не біты. *[Шчукін:] Прыгожая дзяўчына, але без цара ў галаве.* Гурскі. *— Без цара ў галаве баба. Няма на яе добрага кія... — сказаў стары.* Супрунчук. *Можа быць, бліжэй [Бальзамінаў] да Хлестакова — тым, што будучы «без цара ў галаве», прагне асалоды і дабрабыту.* «ЛіМ». *Гэта ў нашым пад'ездзе такая суседка жыве — забываецца вечна. Зусім без цара ў галаве.* Гілевіч.

*ЦАРКОЎНАЯ* ● **ЯК ЦАРКОЎНАЯ МЫШ.** Гл. мыш.

*ЦАРОМ* ● **ЗА ЦАР`ОМ ГАР`ОХАМ.** *Акал. Разм. Жарт.-іран.* Вельмі даўно; невядома калі (было, адбывалася што-н. і пад.). **Сін**.: за дзедам шведам; пры цару гароху. *Пад дахам сенцаў я адшукаў заплеценую павуціннем іржавую бацькаву нажоўку і падаў Кудрашову. Ён пакруціў галавою. — Струмант! Нічога, брат, не скажаш. Відаць, за царом Гарохам куплялі.* Грахоўскі. *— Пушкін, да вашага ведама, памёр ужо... — сказаў чалавек у плашчы. — У адна тысяча васемсот... васемсот... Гэта было, да вашага ведама, яшчэ за царом Гарохам.* Васілёнак.

**З ЦАР`ОМ У ГАЛАВ`Е.** *Разм. Адабр.* **1**. Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі разумны, кемлівы. **Сін**.: з галавой (у 1 знач.); у цемя не біты. **Ант**.: без галавы; без клёпкі ў галаве; без цара ў галаве; з прыветам; сямі пядзяў у лбе (лобе). *Старшыня чалавек бывалы, з царом, як кажуць, у галаве. З ім гаварыць цікава пра ўсё. Нават пра вясну.* Карамазаў. *Акуліна мела трох сыноў. Але жыць захацела ў сярэдняга. «Гэты з царом у галаве, з богам у сэрцы», — гаварыла яна пра свайго Олюся.* Цяжкі.

**2**. *Акал.* Вельмі разумна. *— Ну і памёр [Парфен]. Неяк лёгка і хораша. — Ён і жыў хораша — разумна, як кажуць, з царом у галаве.* Чыгрынаў.

*ЦАРСКІЯ* ● **ЦАРСКІЯ СЛЁЗЫ.** Гл. слёзы.

*ЦАРСТВА* ● **ПУСКАЦЬ У ЦАРСТВА НЯБЕСНАЕ** *каго.* Гл. пускаць.

**С`ОННАЕ Ц`АРСТВА.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Спакой, цішыня, калі ўсе спяць. *Я пахаладзеў ад думкі: добранькую паслугу зрабіў бы свайму камандзіру, каб прывёў у гэта соннае царства, у сямейнае купэ камандуючага фронту.* Шамякін. — *Дай там, дачушка, Малую Будзілаўку. — Падзьмуў у трубку. — Ні душы? Што ў вас там — соннае царства?* Лобан. *Праўда, як толькі здараўся перабой з электрычнасцю, цэх ператвараўся ў соннае царства — спалі, дзе хто сядзеў...* «Вожык».

**Ц`АРСТВА НЯБ`ЕСНАЕ.** *У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Рай, замагільнае жыццё ў раі. — *У нябеснае царства, дзед, вароты шырокія, а за зямное яшчэ біцца трэба, — сказаў Максім Ус.* Грахоўскі. *І Ясік, чацвёртакласнік, у бацькаву дуду: «Ты што, мама, у царства нябеснае верыш?»* Гарэлікава.

**Ц`АРСТВА НЯБ`ЕСНАЕ** *каму. Выкл. Разм.* Ужыв. пры ўпамінанні нябожчыка як пажаданне яму замагільнага жыцця ў раі. **Сін**.: мір праху *каго, чыйму. Сын яго, Лёўка, насіў у млыне на другі паверх па два шасціпудовыя мяхі за раз, узяўшы пад пахі, а потым — булава, царства яму нябеснае, напіўшыся п'яны, прастудзіўся за ноч у канаве і памёр...* Брыль. — *Адмучыўся! — адказалі санітары. — Царства яму нябеснае, — перахрысцілася жанчына, захутаная ў коўдру.* Грахоўскі.

*ЦАРУ* ● **ПРЫ ЦАР`У ГАР`ОХУ.** *Акал. Разм. Жарт.-іран.* Вельмі даўно; невядома калі (было, адбылося што-н. і пад.). **Сін**.: за дзедам шведам; за царом гарохам. — А *вашы кабеты паверылі, што вада святая... — То калі ж было-о! Яшчэ пры цару Гароху. Гм...* Ваданосаў. — *Гэта я? Сем хлопцаў у Запруддзі ажаніў, а ты мне?! — Ажаніў пры цару Гароху. А цяпер не тое, — хвалявaўся Сцяпан.* Рылько. *Ды і ўсе будынiны.. [Мартыневіча] ставіліся яшчэ пры цару Гароху дзядамі ці прадзедамі і амаль увачавідкі разлазіліся.* Чарнышэвіч. *[Бладыка:] Вы ведаеце, чым займаецца наш шаноўны вучоны? Збірае і запісвае старыя назвы траў і кветак. Вырвіце любую травінку — і ён вам скажа, як яе называлі пры цару Гароху.* Гілевіч. **ПРЫ ЦАРУ ГАРОХУ КАЛІ (ЯК) ЛЮДЗЕЙ БЫЛО ТРОХУ.** *І ўспамінаюць часы пры цару Гароху, калі людзей было троху, калі ішлі скураныя рублі і драўляныя капавікі.* Барадулін. [*Лепешаў*, с. 60: пры цару гароху як людзей было троху; *Раманаў*, № 501: при царе Горохе, як было людей трохи.].

*ЦАРЫЦА* ● **ЦАР`ЫЦА ПАЛ`ЁЎ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Пяхота. — *Яшчэ і яшчэ падкіньце аганьку, артылерысты! Дайце ім прыкурыць! — Мы то дадзім, — адбіваўся ад іх Сяргей. — А дзе ваш аганёк, доблесная царыца палёў?* Няхай. *Як ні*

*стараліся нашы артылерысты, пракладаючы шлях пяхоце, усё ж такі атакі «царыцы палёў» поспеху не мелі.* Праскураў.

*ЦВЕТ* ● **ЯК М`АКАЎ ЦВ`ЕТ.** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прыгожы, румяны. **Сін**.: кроў з малаком (у 2 знач.); хоць вады напіся. *«Як макаў цвет! Чыстая матка!» — падумаў ён [Чарнушка] радасна.* Мележ. *Там дзеўкі як макаў цвет, ад хлопцаў адбою н[я]ма.* Юрчанка.

*ЦВЕТАМ* ● **ЗІМ`ОЙ І Л`ЕТАМ АДН`ЫМ ЦВ`ЕТАМ.** *Разм. Часта неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Заўсёды ў адным і тым жа адзенні. *Якая там раскоша! Адзець на змену не было чаго... І яна [маці], і дзеці зімой і летам адным цветам — адно насілі, латанае-пералатанае.* Гіль. *Зойка амаль па году не здымала з сябе сіняй пацёртай спадніцы і цёмна-шэрай шарсцяной жакеткі... Чулася пра яе толькі адно: «зімой і летам адным цветам». З таго і празвалі Зойку «елкай».* Янішчыц. *— Вы, Канстанцін Верамеевіч, зімой і летам адным цветам... — Гэта вы пра што?.. — А пра тое, што кубанка ўлетку вас халодзіць, а зімою — грэе, — усміхнуўся Рыбін.* Пестрак.

*ЦВЁРДЫ* ● **ЦВЁРДЫ АРЭШАК**. Гл. арэшак.

*ЦВІК* ● **Х`ОЦЬ БЫ ЦВ`ІК** *<каму>. У безас. ужыв. Разм.* Нічога не робіцца з кім-н., нічога не дзейнічае на каго-н. **Сін**.: і не знайся (у 2 знач.); хоць бы дзічкі *каму*; хоць бы хны (у 2 знач.); хоць бы што (у 2 знач.). *Бабка, якую калісьці выдалі замуж «вельмі далёка», вёрстаў, скажам, за пятнаццаць ад роднай вёскі, бабка, якая калісьці нямала паплакала з гэтай прычыны, сёння шпарыць у турбавінтавым самалёце ў адведзіны да сына або дачкі, у Алма-Ату ці ў Хабараўск, і — хоць бы цвік, паводзіць сябе зусім па-сучаснаму.* Брыль. *Я, Сцяпанавіч, пад настрой адзін паўлітру вып'ю і хоць бы цвік, стаю на нагах, помню ўсё...* Масарэнка.

*ЦВІКОМ* ● **СЯДЗЕЦЬ <ЦВІКОМ> У ГАЛАВЕ** *ў каго, чыёй.* Гл. сядзець.

*ЦЕЛА* ● **СПАДАЦЬ З ЦЕЛА.** Гл. спадаць.

*ЦЕЛАМ* ● **ДУШОЙ І ЦЕЛАМ.** Гл. душой.

**СВЯЦІЦЬ ГОЛЫМ ЦЕЛАМ.** Гл. свяціць.

*ЦЕЛЕ* ● **ЛЕДЗЬ ДУША Ў ЦЕЛЕ** *ў каго.* Гл. душа.

**МАРОЗ ПА ЦЕЛЕ <ПРАБЯГАЕ>** *у каго, каго, чым.* Гл. мароз.

**МУРАШКІ ЗАБЕГАЛІ ПА ЦЕЛЕ** *ў каго, каго, чым.* Гл. мурашкі.

**У Ц`ЕЛЕ.** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Поўны, укормлены, сыты. *Яшчэ малады конь, і ў целе, але, відаць, ціхаход.* Гурскі. *Заўсёды той тлусцее, каму зганяць бы тлушч, а той, хто быў не ў целе, той сохне, нібы хрушч.* Зуёнак. *Хоць дзяўчаты былі, як гаворыцца, у целе, але ж добрых дзесяць дзён.. яны не бачылі ў вочы мяса.* Марчук.

**У Ч`ОРНЫМ Ц`ЕЛЕ** *трымаць.* *Акал. Разм.* **1**. Надгаладзь, без дастатковага харчавання. *[Падрадчык] кідаў ім капейкі, сабе клаў у кішэню сотні рублёў. Рабочага трымаў у чорным целе, сам пышэў тлусцей.* Шынклер. *[Змітро:] Што ж вас у чорным целе трымаюць, не кормяць? Выкінулі сюды, як непрыкаяных, і забыліся, што есці хочаце.* Марчук.

**2**. Вельмі строга, сурова, абмяжоўваючы свабоду дзеянняў. **Сін**.: у абцугах; у цуглях. *Баба сваю дачку песціла, даглядала, а дзедаву ў чорным целе трымала.* Якімовіч. *Іх, гэтых гусляроў, трэба ў чорным целе трымаць. А мы ім патураем. Волю далі.* Асіпенка. *Мяне, браце, новы камандзір тут у чорным целе трымае.* Федасеенка. *[Жур:] Труба! Капцы на месцы! Нядоўга ён будзе мяне ў чорным целе трымаць.* Васілеўскі.

*ЦЕЛІЦЦА* ● **НІ МЫЧЫЦЬ НІ ЦЕЛІЦЦА.** Гл. мычыць.

*ЦЕМЯ* ● **У ЦЕМЯ НЕ БІТЫ.** Гл. біты.

*ЦЕНЬ* ● **КІДАЦЬ ЦЕНЬ** *на каго, на што.* Гл. кідаць.

**НАВОДЗІЦЬ ЦЕНЬ** *на каго, на што.* Гл. наводзіць.

**НАВОДЗІЦЬ ЦЕНЬ НА ПЛЯЦЕНЬ.** Гл. наводзіць.

**НАВОДЗІЦЬ ЦЕНЬ НА СВЕТЛЫ ДЗЕНЬ.** Гл. наводзіць.

**Ц`ЕНЬ П`АДАЕ (КЛАДЗ`ЕЦЦА)** *на каго, на што*; **Ц`ЕНЬ УП`АЎ** *на каго, на што. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Хто-н. ці што-н. няславіцца, выстаўляецца ў непрыглядным святле. *Цяпер, калі гэтая шкура вісіць на двары, так ці інакш цень падае на іх, Крамераў. Людзі могуць падумаць, што гэта яны падказалі салдатам, у каго забраць карову.* Навуменка. У *той час многія маўчалі... А цяпер, калі пытаюць, трэба выказваць усё, каб не падаў на людзей цень.* Арочка. *Тут цень кладзецца на тваю дзелавую рэпутацыю.* Карпаў. *Але якая ж у яе [Марыны] бяда? Тая, што лепшым сябрам мужа аказаўся паганец?.. Што і на мужа такім чынам кладзецца цень?..* Радкевіч. *Каб хто сказаў пра тваю дружбу з імі, то пасля такой гісторыі не паглядзелі б на тваё непаўналецце і на крыж Георгіеўскі. Засудзілі б. І на мяне цень упаў бы.* Шамякін. *[Хардзін] баяўся, што пра ўстанову, якою ён кіруе, пойдзе кепская слава ў вышэйшых колах. Што і на яго ўпадзе цень — не змог утрымаць сваіх падначаленых, распусціў, а мо і сам спачуваў ім.* Арабей.

**ЯК Ц`ЕНЬ.** *Разм.* **1**. *Акал.* Неадчэпна (хадзіць за кім-н.). *[Міхась:] А дзе там Лявону прыступіцца да Яніны за асаднікам. Ганецкі ж за ёй як цень па пятах ходзіць.* Козел. *Відаць, не без уплыву Бяссмертнага так лёгка перавялі Валю з кухні проста ў яго групу... І тут ужо Бяссмертны як цень хадзіў за ёю.* Дамашэвіч.

**2**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, часцей у спалучэнні з

дзеясл. *хадзіць, сланяцца* і пад. Прыгнечаны, расстроены, засмучаны. **Сін**.: не ў сабе; сам не ў сабе; як не свой; як пад зямлёй; <як> сам не свой; як у ваду апушчаны. *Дзіка і пуста стала ў Мёртвым Полі. Людзі хадзілі як цені, галодныя, прыгнечаныя.* Колас. *[Зёлкін:] Вось гэта вучоны! Адразу значны ўклад. Не тое, што Чарнавус: дзесяць год усё нейкія гліны ды фасфарыты даследуе. [Зіна:] Сланяецца вунь як цень.* Крапіва. *Аглушаны, душэўна паранены, я хадзіў як цень.* Шамякін.

*ЦЕНЮ* ● **БАЯЦЦА СВАЙГО ЦЕНЮ.** Гл. баяцца.

**У ЦЕНЮ.** Гл. цяні.

*ЦЕРАЗ* ● **ЛАМАЦЬ ЦЕРАЗ КАЛЕНА** *што.* Гл. ламаць.

**ЦЕРАЗ ГАЛАВУ** *каго, чыю.* Гл. галаву.

**ЦЕРАЗ ДЗЕСЯТЫЯ РУКІ.** Гл. рукі.

**ЦЕРАЗ КРАЙ** *чаго.* Гл. край.

**ЦЕРАЗ ЛАД.** Гл. лад.

**ЦЕРАЗ МЕРУ.** Гл. меру.

**ЦЕРАЗ ПЕНЬ КАЛОДУ.** Гл. пень.

*ЦЕСНЫ* ● **СВЕТ ЦЕСНЫ.** Гл. свет.

*ЦЕСТА* ● **З АДНАГО ЦЕСТА <СПЕЧАНЫ>.** Гл. спечаны.

**З ІНШАГА ЦЕСТА <СПЕЧАНЫ>.** Гл. спечаны.

**НЕ З ТАКОГА ЦЕСТА ЗРОБЛЕНЫ.** Гл. зроблены.

*ЦЕЦЯРУК* ● **ГЛУХ`І ЦЕЦЯР`УК.** *Адз. і мн. Часцей у знач. зваротка. Праст. Груб.* Чалавек, які кепска чуе. Пра мужчыну. **Сін**.: глухая цяцера. *[Макрына:] Тады сядзі на печы і не швэндайся па хатах!.. [Мікола:] Але, у латах!.. Увесь у латах... ведама, бедны! [Макрына:] Ото, глухі цецярук!..* Галубок. «Ну, — *думаў я пра Дзяміда, — няхай толькі паткнецца, цецярук глухі. Дадзім яму прачуханца».* Кухараў.

*ЦЕШЧЫН* ● **ЦЕШЧЫН ЯЗЫК.** Гл. язык.

*ЦЁМНАГА* ● **АД Ц`ЁМНАГА ДА Ц`ЁМНАГА.** *Акал. Разм.* Увесь дзень, з раніцы да вечара (рабіць што-н.). **Сін**.: ад відна да цямна; ад зары да зары (у 1 знач.); ад расы да расы; ад цямна да цямна. **Ант**.: ад відна <і> да відна; ад зары да зары (у 2 знач.); ад цямна <і> да відна. *Нялёгка было, часамі хацелася пагуляць з аднагодкамі, а даводзілася, ад цёмнага да цёмнага, сачыць за статкам.* Броўка. *Рабіла б, здаецца, ад цёмнага да цёмнага, не цягалася б па людзях.* Галавач.

*ЦЁМНЫ* ● **ЦЁМНЫ ЛЕС** *<для каго>*. Гл. лес.

*ЦЁПЛАЕ* ● **ЦЁПЛАЕ МЕСЦА.** Гл. месца.

*ЦІКАВЫМ* ● **У ЦІКАВЫМ СТАНОВІШЧЫ.** Гл. становішчы.

*ЦІПУН* ● **ЦІП`УН НА ЯЗ`ЫК** *каму. Выкл. Разм.* Рэзкае асуджэнне чыйго-н. недарэчнага выказвання, нядобрае пажаданне таму, хто гаворыць не тое, што трэба. **Сін**.: соль у вочы *каму. [Мігуцкі:] Пакуль*

*вы надумаецеся, дык немец сцапае вас, як курапатку. [Ганна Якаўлеўна:] Ціпун вам на язык!* Крапіва. *Гэта я накаркала. Помніце, я сказала: «Аднімуць у вас правы». А ён: «Ціпун вам на язык».* Шамякін. *[Федзя:] Ціпун вам на язык, цётка, за такое прарочанне.* Козел.

*ЦІХАЙ* ● **ЦІХАЙ САПАЙ.** Гл. сапай.

*ЦІХАЯ* ● **ЦІХАЯ ЗАВАДЗЬ.** Гл. завадзь.

*ЦІШ* ● **Ц`ІШ ДЫ ГЛ`АДЗЬ** *дзе. Часцей у знач. вык. Разм.* Поўны спакой, ціхамірнасць дзе-н. **Ант**.: вавілонскае стоўпатварэнне; мамаева пабоішча; садом і гамора; страсці-мардасці; сыр-бор; шурум-бурум. *Без стуку ўваходзіць Мігуцкі. Усе здзіўлена на яго глядзяць. [Мігуцкі:] А тут ціш ды гладзь.* Крапіва. *Гардзей думаў – знайшоў кашалёк, і ўсё па ўсім... І ціш ды гладзь...* Місько.

*ЦІШЭЙ* ● **ЦІШ`ЭЙ ВАД`Ы <І> НІЖ`ЭЙ ТРАВ`Ы.** *Разм.* **1**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі пакорлівы, сарамлівы, ціхі; такі, што трымаецца непрыкметна, нясмела. **Сін**.: вады не замуціць; мухі не пакрыўдзіць. *Папрасіла яна пана і пані Будзіловічаў, каб дазволілі мне жыць з ёю ў кухні: што буду я цішэй вады, ніжэй травы, і есці будзе яна варыць сабе і мне капусту ды бульбу, у асобным чыгуночку.* Гарэцкі. *Ходзіць пан у яе [пані] на ланцужку. З намі грозны, а перад ёй ніжэй травы, цішэй вады.* Лынькоў. *Добра, добра, дзядзька, не хвалюйцеся. Мы будзем цішэй вады, ніжэй травы, маўчаць ды слухаць.* Сачанка.

**2**. *Акал.* Вельмі пакорліва, нясмела, непрыкметна (трымацца, весці сябе). *Няма ўжо таго ініцыятыўнага і аптымістычнага Астапчыка, якім мы яго ведалі. Трымае сябе цішэй вады і ніжэй травы, а паліцэйскія ўсё роўна ходзяць за ім следам і не спускаюць з вока.* Машара. *Мішка, які да прыходу бацькі трымаўся з бывалым дзедам, як гавораць, цішэй вады, ніжэй травы, спакойна распытваючы пра яго партызанскія справы, цяпер раптам адчуў патрэбу паказаць і свае здольнасці.* Паслядовіч. *Пасядзі пакуль што ў Пачаеве, зводдаль ад Ялбжыхоўскага, цішэй вады, ніжэй травы, я ж буду пра цябе заўсёды памятаць і маліцца...* Карпюк.

*ЦОТ* ● **Ц`ОТ У Ц`ОТ.** *Акал. Разм.* **1**. Абсалютна дакладна, без якіх-н. адхіленняў (зрабіць што-н.). **Сін**.: кропка ў кропку (у 1 знач.); цюцелька ў цюцельку (у 1 знач.). *[Жадан:] Вёў я цягнік як мае быць, усё па заданню выканаў і прыбыў — цот у цот...* Шынклер. У *калгасе «Умалот» правялі рэвізію. Усё сышлося: цот у цот — грошы і правізія.* Скрыпка.

**2**. Абсалютна гэтак жа ці такі ж. **Сін**.: цюцелька ў цюцельку (у 2 знач.). У *сне бачыў Кавалевіч запаветны хутар, цот у цот такі ж, на якім давялося яму пабыць у Прусіі, куды вазілі іх у*

*кароткатэрміновую школу.* Лынькоў. *Знайшоўся там і шматок чырвонай матэрыі. Назарэнка сам адрэзаў ад яго колькі трэба і на нашых вачах зрабіў нашыўку — цот у цот, як у сяржанта.* Сяркоў.

*ЦУГЛІ* ● **ЗАКУСВАЦЬ ЦУГЛІ.** Гл. закусваць.

*ЦУГЛЯХ* ● **У Ц`УГЛЯХ** трымаць. *Акал. Разм.* Вельмі строга, абмяжоўваючы свабоду дзеянняў. **Сін**.: у абцугах; у чорным целе (у 2 знач.). *[Ваенная машына] прызначана для таго, каб трымаць у цуглях свой народ.* «Полымя».

*ЦУГУНДАР* ● **БРАЦЬ НА ЦУГУНДАР** *каго.* Гл. браць.

*ЦУД* ● **В`ОСЬМЫ Ц`УД СВ`ЕТУ**. *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Функц. не зам.* Штосьці дзіўнае, велічнае, незвычайнае. **Сін.:** тысяча і адна ноч. *Я шмат чытаў для свайго ўзросту, гэта былі радкі накшталт радкоў нямецкага паэта Мюллера... І раптам: «Ці завылі ваўкі, ці заенчыў віхор, ці запеў салавей, ці загагала гусь, – я тут бачу свой край, поле, рэчку і бор, сваю матку-зямлю – Беларусь». Гэта было дзіва. Восьмы – а для мяне першы – цуд свету. А потым былі «Магіла льва», «Бандароўна», – і змяніўся свет. Назаўжды.* Караткевіч. *І вось у беднай краіне пачынаецца будаванне прызначанага здзівіць увесь свет хрустальнага палаца, восьмага цуду свету* «ЛіМ». *Калі і ёсць у нас нейкі варты самага шчырага здзіўлення і захаплення «кантэкст», дык менавіта наш «восьмы цуд свету», наша літаратура, якой адкрыта зайздросцілі самыя аўтарытэтныя знаўцы многіх народаў...* Шупенька.

**Ц`УД (Ц`УДА) У Р`ЭШАЦЕ.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм.* Штосьці незвычайнае, неверагоднае. **Сін**.: дзівосы на калёсах; пацеха з пустога меха; цырк на дроце. *Лычагін і пасля гэтага не супакоіўся, працягвае свае «свавольствы», робіць разгон іншадумцам, помсціць за крытыку... Вось якая дзіўная гісторыя. Проста цуд у рэшаце.* «Звязда». *Сам таварыш Вепручкоў Зябліку пакланіўся? Можа, рашыў, што большую пасаду яму адвалілі? Цуда ў рэшаце, дый годзе!* Аношкін. *Цуды ў рэшаце па-амерыканску не абмяжоўваюцца, натуральна, крымінальна-судовай хронікай.* Вярцінскі.

*ЦУКАР* ● **НЕ Ц`УКАР.** *Разм.* **1**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Нялёгкі, цяжкі, непрыемны. **Сін**.: не мёд (у 1 знач.). *Ніколі не заглядаюць сюды сонечныя промні, і не дзіва, што сам Харон хмуры і неахайны, ды і характар у яго не цукар.* «ЛіМ». *Вы раіце быць уважлівым да маладых. І сам гэта разумею, але як прымаюць гэту ўвагу? Не цукар яна Салаўю, нават пры самым далікатным падыходзе.* Ярашэвіч.

**2**. *каму. У безас. ужыв.* Нялёгка, мала прыемнага, радаснага. **Сін**.:

не мёд (у 2 знач.). *Я тады быў на Карэльскім фронце. Таксама не цукар, але ж чытаў у газетах пра Сталінград і не зайздросціў вам. Як там людзі трывалі?* Новікаў.

**Ц`УКАР МЯД`ОВІЧ.** *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Празмерна ласкавы, прытворна-ветлівы чалавек. *—Нешта Хаміч.. дужа настырны... — А яшчэ цукар мядо-овіч! — пажартаваў Кузьма Прыбыткоў.* Чыгрынаў. *Ідучы са сходу, калгаснікі мармыталі: — Не старшыня, а цукар мядовіч... — Словы салодкія, а справы ніякай... —Звоніць, пакуль ахвоту згоніць.* Міско.

*ЦЫБУЛЬКІ* ● **НІ (АНІ) ЦЫБ`УЛЬКІ НІ (АНІ) УКРЫШ`ЫЦЬ <У ШТ`О>.** *Акал. Разм.* Абсалютна нічога (няма, не засталося і пад.; часцей пра ежу). *— Адна цыбулінка ёсць яшчэ ў нас!.. — Гэта ж цуд! Беларусы кажуць, што гора тады, калі ні цыбулькі ні ўкрышыць у што. А ў нас зараз будуць з усяго гэтага не адна, а дзве стравы!* Дубоўка. *Захар Стасеў, нібы падводзячы вынікі сходу, зрабіў выснову: — Было ані цыбулькі ані ўкрышыць, а цяпер, відаць, і гэтага не будзе.* Міско. *Братам Галдуотэрам і іншым яго хаўруснікам ад такога сяброўства не засталося ані цыбулькі ані ўкрышыць.* Сіманоўскі.

*ЦЫГАН* ● Мяняць **ЯК (ШТО) ЦЫГ`АН К`ОНЕЙ**. *Акал. Разм. Неадабр.* Вельмі часта. **Сін**.: як пальчаткі. *Але чаму б вам.. не стацца тым, чым вы самдзеле ёсць: Мікіта Зносак – і мілагучна, і па-тутэйшаму, ды языкоў не трэба мяняць, як цыган коні?* Купала. *Крайнімі аказаліся старшыні калгасаў... Іх пачалі мяняць што цыган коней.* Паўлаў.

*ЦЫГАНСКАЕ* ● **ЦЫГАНСКАЕ СОНЦА.** Гл. сонца.

*ЦЫГАНСКІ* ● **ЦЫГАНСКІ ПОТ.** Гл. пот.

*ЦЫМБАЛАХ* ● **УДАРЫЦЬ ПА ЦЫМБАЛАХ.** Гл. ударыць.

**ЯК ЛАПЦЕМ ПА ЦЫМБАЛАХ.** Гл. лапцем.

*ЦЫПАЧКАХ* ● **НА Ц`ЫПАЧКАХ (НА Ц`ЫПКАХ)** ісці, падыходзіць, сядзець і пад. *Акал. Разм.* На пальцах ног. **Сін**.: на дыбачках. *Ганна Якаўлеўна.. на момант спыняецца ў дзвярах, глядзіць на Гудовіча, потым на цыпачках падыходзіць да фікусаў.* Крапіва. *Таня асцярожна, на цыпачках адышла ад ложка...* Каваль. *[Ганна] вобмацкам, асцярожліва выставіўшы ўперад рукі, дайшла на цыпках да свайго ложка ў куце каля акна...* Мележ. *Сядзіць на цыпках баец Аляксандраў.* Кулакоўскі.

*ЦЫПАЧКІ* ● **НА Ц`ЫПАЧКІ (НА Ц`ЫПКІ)** станавіцца (стаць), прысядаць і пад. *Акал. Разм.* На пальцы ног. **Сін**.: на дыбачкі. *А з боку падыходзілі яшчэ і, дагадваючыся, у чым справа, станавіліся на цыпачкі, каб зазірнуць у сярэдзіну натоўпу.* Галавач. *— Палягчэла ёй?*

*Спіць? — нават на цыпачкі стаў хлопец, каб не нарабіць залішняга грукату сваімі ботамі.* Лынькоў. *Віця тым часам, стаўшы на цыпкі, ладзіў падсядзёлак.* Якімовіч. *Алег таксама прысядае на цыпкі і размінае рукамі дзве сухія грудкі зямлі.* Гамолка.

*ЦЫПКАХ* ● **НА ЦЫПКАХ.** Гл. цыпачках.

*ЦЫПКІ* ● **НА ЦЫПКІ.** Гл. цыпачкі.

*ЦЫРК* ● **Ц`ЫРК НА ДР`ОЦЕ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Штосьці смешнае, незвычайнае. **Сін**.: дзівосы на калёсах; пацеха з пустога меха; цуд у рэшаце. *[Анжэла і Алена] апамяталіся ад пявучага старэчага голасу з непрыемным смешным вясковым выгаварам: — Ваай, людцы добрыя, толькі гляньце, што робіцца на свеце: цырк на дроце, цырк на дро-оце...* Гігевіч. *Пайшоў дождж, дык ён [новы марак] і пытае: «А галёшы на параходзе выдаюць?» Знайшоў параход! Проста бясплатны цырк на дроце.* Крыга. *Міжы тым на экране працягваўся суд. Суддзі задавалі пытанні, сведкі адказвалі. Часам успыхваў у зале смех. Цырк на дроце!* Левановіч.

*ЦЫРЛАХ* ● **НА Ц`ЫРЛАХ.** *Праст. Неадабр.* **1.** *перад кім.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дрыжаць перад кім-н., без адгаворак падпарадкоўваючыся ва ўсім. **Сін.**: скакаць пад дудку *чыю, каго*; хадзіць па адной масніцыне *ў каго*; хадзіць па нітачцы *перад кім, у каго*; хадзіць па струнцы *перад кім, у каго. Усе, нават афіцэры, перад ім, як кажа старая Пабетынчыха, на цырлах.* Супрунчук.

**2.** бегаць *вакол каго. Акал.* Усяляк дагаджаючы каму-н. *Мы – усе роўныя. Чаму гэта я павінна табе дагаджаць, перад табою пластавацца? Бач, пан нейкі знайшоўся, бегай вакол яго на цырлах!* Законнікаў. *Да рубля ведаў суму ўсіх яе [жончыных] грошай. Затое калі самому што ўдавалася зарабіць – от ужо тады вакол яго ўсе на цырлах павінны бегаць: яму і ўслужы-падай, і не пярэч, калі ён лішак за каўнер закіне...* Масарэнка.

*ЦЫЦКІ* ● **ЖАБА ЦЫЦКІ ДАСЦЬ** *каму.* Гл. жаба.

*ЦЬМА* ● **ЦЬМ`А ЦЬМ`УШЧАЯ** *каго, чаго. Мн. не ўжыв, У безас. ужыв. Разм.* Незлічонае мноства, вялікая колькасць. **Сін**.: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора

разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго*. *Цяпер гэтулькі будуецца новых заводаў усюды — цьма цьмушчая.* Мурашка. *Хлопцы разнеслі чуткі, што ўсе навакольныя лясы запруджаны партызанамі, што іх цьма цьмушчая.* Гурскі. *[Крандзялёў:] Емяльян Пугачоў падняў цьму цьмушчую мужыкоў на сялянскую вайну!* Макаёнак. *Улетку ля школы кветак розных цьма цьмушчая.* Лявановіч.

**ЧОРТАВА ЦЬМА.** Гл. процьма.

*ЦЬМУШЧАЯ* ● **ЦЬМА ЦЬМУШЧАЯ** *каго, чаго.* Гл. цьма.

*ЦЬФУ* ● **ЦЬФ`У Т`Ы <Ч`ОРТ>!** *Выкл. Праст.* Воклiч прыкрасці, раздражнення. **Сін**.: авохці мне; бляха-муха; ёлкі зялёныя; ёлкі-маталкі; ёлкі-палкі; ё-маё; фу ты <ну-ты>; халера ясная; цьфу ты нячыстая сіла; чорт бы яго ўзяў; чорт вазьмі; чорт ведае што такое. *[Рыбнікаў:] Там жа поўзаць трэба, а ты хіба папаўзеш? [Караневіч, успомніўшы пра раненую руку:] Цьфу ты чорт!* Крапіва. *[Анатоль:] Цьфу ты! Я ж і забыўся зусім, для яе ж жаніх добры здараецца — пан Гаецкі.* Козел.

*ЦЭ* ● **НІ Ц`Э НІ Б`Э** <u>не ведаць, не разумець</u> і пад. *Акал. ці ў знач. вык. (пры апушчаным дзеясл.). Разм. Неадабр.* Зусім нічога. **Сін**.: ні а ні бэ; ні бельмеса; ні бум-бум; ні бэ ні мэ <ні кукарэку>; ні бэ ні мя; ні вуха ні рыла; ні ў зуб <нагой>. *[Лявановіч:] А калі ён і цябе вакол пальца абвёў? [Вера:] Што ж я, па-твойму, палена бярозавае? Ні цэ ні бэ не разумею?* Крапіва. *Смяхоцце з чалавека! Не ведае, як той казаў, ні цэ ні бэ, а на каралеўства прэ!* Баранавых.

*ЦЭЛІ* ● **БІЦЬ МІМА ЦЭЛІ.** Гл. біць.

*ЦЭЛЫ* ● **ЦЭЛЫ ВОЗ** *каго, чаго.* Гл. воз.

*ЦЭЛЫМ* ● **У Ц`ЭЛЫМ.** *Акал. Функ. не зам.* **1**. Ва ўсёй сукупнасці, цалкам. У *цэлым Лахадынава не падводзяць ні радавыя калгаснікі, ні кіраўнічыя кадры.* «Звязда». *Лічу, што нашы вучоныя павінны ў цэлым пашыраць поле грунтоўных даследаванняў творчасці пісьменнікаў.* Мележ.

**2**. Увогуле, без падрабязнасцей (бачыць, ведаць і пад.). **Сін**.: у агульных рысах; у асноўным (у 2 знач.); у прынцыпе. У *цэлым ужо ў пачатку работы я бачыў контуры сваіх будучых твораў, але яны, вядома, маляваліся вельмі цьмяна, агульна.* Мележ. *Водгук завяршаецца высновай, што даследаванне ў цэлым заслугоўвае станоўчай ацэнкі.* «Наша слова».

*ЦЭЛЬ* ● **БІЦЬ У ЦЭЛЬ.** Гл. біць.

**ПАПАДАЦЬ У ЦЭЛЬ.** Гл. пападаць.

*ЦЭНТР* ● **Ц`ЭНТР ЦЯЖ`АРУ** *чаго. Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Самае асноўнае, галоўнае, сутнасць чаго-н. *Ва ўсякім выпадку ясна адно: прэзідэнт пераарыентоўвае на ходу свой курс, цэнтр цяжару ў амерыканскай блізкаўсходняй палітыцы перамяшчаецца.* Вярцінскі.

*ЦЮКНУЦЬ* ● **Ц`ЮКНУЦЬ У ГАЛАВ`У** *каму. Зак. Часцей у безас. ужыв. Разм.* Раптоўна з'явіцца ў свядомасці. Пра думку, ідэю і пад. **Сін**.: лезці ў галаву *каму*; прыходзіць на думку *каму* (у 1 знач.); прыходзіць у галаву *каму* (у 1 знач.); стрэліць у галаву *каму*; стукнуць у галаву *каму* (у 1 знач.); узбрысці на розум *каму*; узбрысці ў галаву *каму* (у 1 знач.); усплываць на памяць *каму, у каго*; усплываць у памяці *каго, чыёй. Мы зачынілі чыгунную вітую браму, ведаючы, што ўсе ўспрымуць гэта як належнае: цюкнула ў галаву ўпраўдому, і ўсё.* Караткевіч. *[Андрэй] адразу ўхапіўся за кружок.., рвануў, але кружкі былі туга звязаны. Тады яму цюкнула ў галаву, што лыка — не ратунак: парве, як саломіну...* Пташнікаў. *Ну, мне й цюкнула ў галаву — дурная ж я, дурная!.. Выходзіць, сама падбіла несмысляў.* Чыгрынаў.

*ЦЮХА* ● **Ц`ЮХА-МАЦ`ЮХА.** *Часцей адз. Часцей вык. Праст.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Няспрытны ці абыякавы да ўсяго чалавек. **Сін**.: цямця-лямця. *Што там за камандзіры безгаловыя. Я ж ім не які-небудзь цюха-мацюха, што хоць і загіне, дык не вялікая бяда.* Крапіва. *— Пад жабры, пад жабры трэба браць. А ты... — гарачыцца Сямён, — цюха-мацюха!* Макаёнак. *Кузняцоў.. умеў адбрыквацца. Людзей берагчы. А гэты цюха-мацюха: загадалі — ёсць, будзем выконваць. А як — у яго і ў паняцці няма.* Быкаў.

*ЦЮЦЕЛЬКА* ● **Ц`ЮЦЕЛЬКА Ў Ц`ЮЦЕЛЬКУ.** *Акал. Разм.* **1**. Абсалютна дакладна, без якіх-н. адхіленняў (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін**.: кропка ў кропку (у 1 знач.); цот у цот (у 1 знач.). *Падкрадзецца немаведама скуль Сымонка і як загрыміць цюцелька ў цюцельку голасам пана Вашамірскага: —* А *бізуной, лябедзіку, хочаш?* Бядуля. *Судны ходзяць праз дзень і на прыстань прыбываюць якраз к пачатку Люсьчынай работы. «Чаркес» яе [Люську] дастаўляе цюцелька ў цюцельку.*

Ракітны. *Правільна, што ў нас не так ды не гэтак, як у калгасе «Высакагорскі», хоць умовы цюцелька ў цюцельку супадаюць.* Парахневіч.

**2**. Абсалютна гэтак жа (як хто-н.). **Сін**.: цот у цот (у 2 знач.). *Пра гаспадарку ён [Сцёпка] развазжаў цюцелька ў цюцельку, як той бацька: заклапочана звесіўшы над сталом упарты лоб, гаварыў неяк у нос, самавіта і важка выдаючы кожнае слова.* Карамазаў.

*ЦЮЦЕЛЬКУ* ● **ЦЮЦЕЛЬКА Ў ЦЮЦЕЛЬКУ.** Гл. цюцелька.

*ЦЯГАЦЬ* ● **Л`ЕДЗЬ (Л`ЕДЗЬВЕ) Н`ОГІ ЦЯГ`АЦЬ (ЦЯГН`УЦЬ, ВАЛАЧ`Ы).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. **1**. Вельмі павольна, з цяжкасцю хадзіць, рухацца (ад стомленасці, слабасці, хваробы і пад.). **Сін**.: валіцца з ног <*ад чаго*>; выбівацца з сіл (у 1 знач.); высалапіць язык; заставацца без ног; збівацца з ног; зямлі не чуць пад сабой (у 2 знач.); ледзь стаяць на нагах (у 1 знач.); ледзь шоры цягаць; на нагах не трымацца; не чуць ног; не чуць ні рук ні ног. *За дзень я так натамляўся, бегаючы ад машыны да машыны, што пад вечар ледзьве цягаў ногі.* Сабаленка. *Ледзьве цягне немец ногі.* Панчанка. *Немцы займалі мясцовасць шпарка, а мы ледзьве ногі валаклі.* Чорны.

**2**. Быць вельмі слабым, знясіленым. **Сін**.: ледзь стаяць на нагах (у 2 знач.). *Жаніўся б ты, Сцёпа. Хіба ты не бачыш, што я ногі ледзь цягаю?* Чарнышэвіч. *Дзед Акім, пэўна, памёр. Ён ужо тады ледзь ногі цягаў.* Карамазаў. *Маці тады ледзьве ўжо валачыла ногі. Суп у грамадскай сталоўцы ела яна, можа, раз у тыдзень.* Гарэцкі. *А тут яшчэ конь ледзь ногі валачэ, наўрад ці пацягне ўвосень плуг.* Галавач.

**Л`ЕДЗЬ (Л`ЕДЗЬВЕ) Ш`ОРЫ ЦЯГ`АЦЬ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Вельмі павольна, з цяжкасцю хадзіць, рухацца (ад стомленасці, слабасці, хваробы і пад.). **Сін**.: валіцца з ног <*ад чаго*>; выбівацца з сіл (у 1 знач.); высалапіць язык; заставацца без ног; збівацца з ног; зямлі не чуць пад сабой (у 2 знач.); ледзь ногі цягаць (у 1 знач.); ледзь стаяць на нагах (у 1 знач.); на нагах не трымацца; не чуць ног; не чуць ні рук ні ног. *Уставай, Фэлька, чуеш? Відняць зараз пачне. Пакуль дакалываемся да таго места — свет не блізкі. І конь такі — шоры ледзьве цягае...* Лялько.

**ЦЯГ`АЦЬ КАШТ`АНЫ З АГН`Ю** *для каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Выконваць з рызыкай для сябе якую-н. цяжкую справу на карысць каго-н. *[Каліноўскі:] Яны не спадзяюцца, што мужык для іх пачне цягаць з агню каштаны.* Куляшоў. *«Землякі» ўблытаюць у сваю справу, падманам прымусяць каштаны з агню цягаць, а потым здрадзяць, як гэта ўжо сто разоў бывала.* Караткевіч. *Плішчынскі дурань, цягае для*

*немцаў каштаны з агню. Прыйдзе дзень, і яны самі дадуць яму выспятка пад зад, калі не ўходаюць да таго часу партызаны.* Навуменка.

*ЦЯГНІК* ● **ЦЯГНІК ПАЙШОЎ.** Гл. поезд.

*ЦЯГНУЎ* ● **ЧОРТ ЦЯГНУЎ ЗА ЯЗЫК** *каго.* Гл. чорт.

*ЦЯГНУЦЬ* ● **ЦЯГН`УЦЬ ВАД`У НА СВА`Ё К`ОЛА.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не клапоцячыся аб іншых, рабіць усё на сваю карысць, служыць выключна асабістым інтарэсам. *Яму, Валеру, увесь час здавалася, што не мізэр, як лічыў Пятро, а шмат людзей імкнуцца прыстасавацца ў жыцці як найлепей і цягнуць ваду адно на сваё кола.* Рубанаў.

**ЦЯГН`УЦЬ ВАЛ`ЫНКУ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Займацца чым-н. нудным, аднастайным. **Сін**.: цягнуць каніцель (у 1 знач.); цягнуць ката за хвост (у 1 знач.); цягнуць рызіну (у 1 знач.). *Як толькі дакладчык пачне, што называецца, цягнуць валынку, — лічыльнік націсне на абмежавальнік, абмежавальнік, у сваю чаргу, на выкідацель, і вось, на радасць слухачам дакладчык правальваецца на глыбінным ліфце пад сцэну, дзе атрымлівае, па выбару, вядро вады або халодны душ....* Брыль. — *Я пастараюся паклікаць яшчэ аднаго ці двух сведак. Паклікаць? — А навошта яны? Я ведаю, што ўсё роўна зробіце так, як вам захочацца. А мне няма часу з вамі валынку цягнуць.* Цяжкі.

**2**. Занадта марудзіць з ажыццяўленнем якой-н. справы. **Сін**.: цягнуць каніцель (у 2 знач.); цягнуць ката за хвост (у 2 знач.); цягнуць рызіну (у 2 знач.); шарварку адрабляць. *—Ну дык што, хлопцы, будзем рабіць брыгаду? — запытаў Пятро. —Дакуль жа цягнуць валынку.* Шахавец. *Колькі ж ты будзеш цягнуць валынку? Як гэта табе не брыдка, сараматніца ты...* Дайліда.

**ЦЯГН`УЦЬ В`ОЗ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Выконваць усю асноўную работу. *—Ты ж зацягалася з гэтай гаспадаркай. І так ты адстала на год у школе... Табе вучыцца трэба, а не цягнуць гэты воз, — паўтарыў бацька тое, што казаў учора.* Васілевіч. А *тыя, што папрывыкалі, каб на іх спінах ездзілі, так і цягнуць воз, пакуль не змогуцца.* Арабей. *Ульяна нікому не скардзілася на сваё жыццё і ўпарта цягнула воз, хоць шкадавала, праўда, ужо, што пагадзілася пераехаць сюды жыць з Мікалаем.* Якавенка.

**ЦЯГН`УЦЬ ГІЗ`УНТЫ** *з каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Мучыць, знясільваць цяжкай працай ці празмернымі патрабаваннямі. **Сін**.: вазіць ваду *на кім*; высмоктваць сок *з каго, з чаго* (у 1 знач.); выціскаць пот *з каго* (у 1 знач.); выціскаць

сокі *з каго*; драць скуру *з каго* (у 1 знач.); піць кроў *з каго, чыю* (у 1 знач.); цягнуць жылы *з каго*; цягнуць кішкі *з каго*; цягнуць сок *з каго. Прадасі карову, адкупішся ад Мацвяёнка раз, дык хіба ён дасць зарок, што на гэтым завяжа? Ён жа будзе цягнуць гізунты, смактаць кроў, як той вупыр.* Міська. *Годзе гізунты з мяне цягнуць! Калі і вінаваты ў чым-небудзь — судзі мяне, штраф давай, у турму садзі, высылай, але не пужай стрэламі, ад работы не адрывай, не выклікай амаль кожны дзень у мястэчка!* Сачанка. **ВЫЦЯГНУЦЬ ГІЗУНТЫ** *з каго. Зак. Гэта ж скнары, а не людзі. Калі яны бяруць кватаранта, дык, думаеш ад душы? Гізунты з чалавека выцягнуць.* Ермаловіч. *І рэдактар можа з цябе гізунты выцягнуць.* Гілевіч.

**ЦЯГН`УЦЬ ДУШ`У** *з каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даймаць, назаляць чым-н. непрыемным, нудным. **Сін**.: вымотваць жылы (у 2 знач.); вымотваць кішкі *каму* (у 1 знач.); гнаіць душу *чыю, каму*; кроіць сэрца *каму, чыё*; разануць <нажом> па сэрцы *каго*; раздзіраць душу *каму, чыю*; рваць душу *чыю, каму*; рэзаць па жывому (у 2 знач.); рэзаць сэрца *каму*; сушыць сэрца *чыё, каму*; цягнуць за душу *каго. —Дык чаго ж ты цягнеш душу з мяне? Кажы мне ўсё, каб я ведала, — напала старая на Зосю.* Крапіва. *Што вы з мяне душу цягнеце? Кажу вам, што з атрада Тышкевіча. А дзе атрад зараз, не ведаю...* Асіпенка.

**ЦЯГН`УЦЬ Ж`ЫЛЫ** *з каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці (радзей) абстр. або канкр. прадмета. Мучыць, знясільваць цяжкай працай ці празмернымі патрабаваннямі. **Сін**.: вазіць ваду *на кім*; высмоктваць сок *з каго, з чаго* (у 1 знач.); выціскаць пот *з каго* (у 1 знач.); выціскаць сокі *з каго*; драць скуру *з каго* (у 1 знач.); піць кроў *з каго, чыю* (у 1 знач.); цягнуць гізунты *з каго*; цягнуць кішкі *з каго*; цягнуць сок *з каго. [Сымон:] Ой, не, дзедку: процій сілы можна ставіць толькі сілу, калі хочаш ты ўстаць з пылу, калі цягнуць з цябе жылы.* Колас. *Раскажы маім хлопцам, як я тут гаравала. Як гэтыя вылюдкі цягнулі з мяне жылы.* Мележ. **ВЫЦЯГНУЦЬ ЖЫЛЫ** *з каго. Зак. І хто гэта пусціў плётку, што за камасацыю выцягнуць з мужыка жылы? Пятнаццаць-дваццаць злотых за дзесяціну — гэта не так ужо і многа!..* Аношкін. *—Я гляджу, дамок як звон. —Ды неблагі. Усе жылы выцягнуў.* Адамчык. *Калі была паблізу Мар'я, ён бурчаў, што гэта работа выцягне з яго ўсе жылы.* А. Жук.

**ЦЯГН`УЦЬ ЗА В`УШЫ** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Усяляк дапамагаць няздольнаму, няўмеламу чалавеку ў вучобе, у руху па службе і пад. **Сін**.: браць на буксір *каго*; падаваць руку <дапамогі> *каму*; падпіраць плячом *каго*; падстаўляць плячо

*каму. Два гады я цягну іх за вушы, дапамагаю, чым магу.* Шамякін. *[Мякішаў:] І трэба ж, каб чалавеку так шанцавала. Усё жыццё. Пашку Траяна за вушы наверх цягнуць, Івана Мякішава на дно кідаюць.* Маўзон. **ВЫЦЯГНУЦЬ ЗА ВУШЫ** *каго. Зак. [Сухадольскі:] Як вы смееце так гаварыць! Вы ж самі дзякавалі за дапамогу. Я ж, можна сказаць, за вушы вас выцягнуў.* Крапіва.

**ЦЯГН`УЦЬ ЗА ДУШ`У** *каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Даймаць, назаляць чым-н. непрыемным, нудным. **Сін**.: вымотваць жылы (у 2 знач.); вымотваць кішкі *каму* (у 1 знач.); гнаіць душу *чыю, каму*; кроіць сэрца *каму, чыё*; разануць <нажом> па сэрцы *каго*; раздзіраць душу *каму, чыю*; рваць душу *чыю, каму*; рэзаць па жывому (у 2 знач.); рэзаць сэрца *каму*; сушыць сэрца *чыё, каму*; цягнуць душу з *каго. [Хадыка:] Скрылёў, ды не цягні ты за душу! Кажы, што і як.* Кобец. — *Ды чытай жа ты хутчэй, не цягні за душу, чаго там углядацца? — строга прыкрыкнула.. свякруха* Васілевіч.

**ЦЯГН`УЦЬ ЗА ЯЗ`ЫК** *каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Прымушаць сказаць, выказаць, расказаць што-н. *Хвёдар і Змітрок так лоўка вялі сходы, так слаўна цягнулі людзей за языкі, ажно проста люба было.* Бядуля. *Канечне, мог бы і памаўчаць. Але зноў жа — вы за язык цягнеце, таму і расказваю.* Чыгрынаў. *Косцік яшчэ больш разгубіўся, збянтэжыўся — яго ж не цягнулі за язык, навошта было ва ўсім гэтак шчыра прызнавацца?* Сачанка. — *Па-добраму — не варта б і гаварыць табе пра гэта. — Я не цягну за язык.* Калодзежны.

**ЦЯГН`УЦЬ КАНІЦ`ЕЛЬ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Займацца чым-н. нудным, аднастайным. **Сін**.: цягнуць валынку <у 1 знач.); цягнуць ката за хвост (у 1 знач.); цягнуць рызіну (у 1 знач.).

**2**. Занадта марудзіць з ажыццяўленнем якой-н. справы. **Сін**.: цягнуць валынку (у 2 знач.); цягнуць ката за хвост (у 2 знач.); цягнуць рызіну (у 2 знач.); шарварку адрабляць. *Кастусь Аляшкевіч гаварыў неахвотна, на пытанні адказваў скупа. —Ударыў, прызнаюся. Толькі не цягніце каніцель, судзіце хутчэй, — паўтараў ён упарта.* Капусцін. *Я знаю, якія яны: доўга будуць цягнуць каніцель.* Юрчанка.

**ЦЯГН`УЦЬ КАТ`А ЗА ХВ`ОСТ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Нудна, аднастайна гаварыць, марудзіць з адказам, выклікаючы ў каго-н. раздражненне. **Сін**.: цягнуць валынку (у 1 знач.); цягнуць каніцель (у 1 знач.); цягнуць рызіну (у 1 знач.). *[Трутнеў:] Кажыце хутчэй. Што вы цягнеце ката за хвост. Я чалавек заняты.* Гурскі. *Што «ўчора»? Ну, што вы цягнеце ката за хвост,*

*кажыце, калі пачалі ўжо. Ну!* Чавускі.

**2**. Занадта доўга рабіць што-н., марудзіць з ажыццяўленнем якой-н. справы. **Сін**.: цягнуць валынку (у 2 знач.); цягнуць каніцель (у 2 знач.); цягнуць рызіну (у 2 знач.); шарварку адрабляць. *Паслязаўтра давайце, чаго ката за хвост цягнуць?* Караткевіч. *Хваліцца, Пятро, няма чым. Каб не цягнуць ката за хвост, скажу адразу: хачу, каб ты мне памог...* Рубанаў. *Няма чаго, бацька, цягнуць ката за хвост. Усё роўна нічога не зменіцца, і ехаць табе са мною прыйдзецца...* Лялько.

**ЦЯГН`УЦЬ К`ІШКІ (ВАНТР`ОБЫ)** з *каго. Незак. Праст. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Мучыць, знясільваць празмернымі патрабаваннямі, цяжкай працай і пад. **Сін**.: вазіць ваду *на кім*; высмоктваць сок *з каго, з чаго* (у 1 знач.); выціскаць пот *з каго* (у 1 знач.); выціскаць сокі *з каго*; драць скуру *з каго* (у 1 знач.); піць кроў *з каго, чыю* (у 1 знач.); цягнуць гізунты *з каго,* цягнуць жылы *з каго*; цягнуць сок *з каго. Гаварыў дзядзька Кандрат, а сам думаў: «Не такі ты, навалач няшчасная, каб дагэтуль спакойна сядзець ды кішкі з мяне цягнуць роспытамі.* Паўлаў. **ВЫЦЯГНУЦЬ КІШКІ (ВАНТРОБЫ)** з *каго. Зак. [Гарэлік:] Ой, гэты фінаддзел! Ён з мяне вантробы выцягне! Ён мне краму зачыніць!* Крапіва.

**ЦЯГН`УЦЬ К`ОЎДРУ НА СЯБ`Е**. *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Дзейнічаць на сваю карысць, не думаючы пра інтарэсы іншых. *Не варта толькі ў парыве звышпатрыятызму цягнуць коўдру на сябе, бо тут [ля ракі Крапівенкі] поруч змагаліся і беларусы, і палякі, і ўкраінцы, і летувісы, магчыма, таксама.* «ЛіМ». *Партнёры пачалі кожны паасобку цягнуць коўдру на сябе... Кожны хацеў адхапіць большы кавалак пірага.* «Звязда». *Працэс еўрапейскай інтэграцыі ідзе няпроста, кожны «цягне коўдру на сябе».* «Свабода». *А слава, як тая кароткая коўдра, дзе кожны ўпіраецца, моўчкі сапе. І толькі маэстра пашаністы Роўда не тужыўся коўдру цягнуць на сябе.* Барадулін.

**ЦЯГН`УЦЬ Л`ЯМКУ** *<каго, чаго>. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Доўгі час займацца цяжкай і аднастайнай справай. **Сін**.: гнуць <сваю> спіну (у 1 знач.); грэць лоб; ліць пот; мазоліць рукі; не разгінаць спіны; сем патоў выліць (у 1 знач.); сем патоў сагнаць; цягнуць ярмо *<каго, якое>. [Марына] сябе самую нічым не можа папікнуць, а лямку трэба нейк цягнуць ды прабіваць сцяну нямую.* Колас. *Хіба толькі такія, як Цімка, лямку цягнуць і за шчасце лічаць? Ведаеш, як мурашкі?* Карпаў. *Пяць год я цягнуў лямку студэнта.* Дамашэвіч. *Калі [Андрэй] і дома, дык знікае немаведама куды, а яна пакорна цягне лямку сямейнага жыцця і амаль не скардзіцца.*

Кацюшэнка.

**ЦЯГН`УЦЬ РУК`У** *чыю, каго. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці (рэдка) адуш. прадмета. Падтрымліваць каго-н., падзяляючы яго думкі, погляды і пад. **Сін**.: глядзець вачамі *чыімі, каго на каго, на што*; іграць у дудку *чыю, каго, каму*; спяваць з голасу *чыйго. За выключэннем апошніх, якіх больш радаваў сам факт спрэчкі сярод камуністаў, чымся яго вынікі, усе іншыя спачувалі Зеленюку, цягнулі яго руку, хоць часам і не ведалі самой сутнасці справы.* Зарэцкі. *Мікола і Пётра ўзрадаваліся, што хоць зязюля цягне іх руку, і гавораць: «Кукуй, кумка, за гэта толькі да Пятра, а пасля можаш адпачыць».* С.Александровіч.

**ЦЯГН`УЦЬ РЫЗ`ІНУ.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Нудна гаварыць, марудзіць з адказам, выклікаючы ў каго-н. раздражненне. **Сін**.: цягнуць валынку (у 1 знач.); цягнуць каніцель (у 1 знач.); цягнуць ката за хвост (у 1 знач.). — *Тут нам падказваюць... Толькі прабачце, калі ласка... — Ды ладна... Не цягні рызіну... Па якой справе?* Аношкін.

**2**. Занадта марудзіць, затрымліваючы якую-н. справу. **Сін**.: цягнуць валынку (у 2 знач.); цягнуць каніцель (у 2 знач.); цягнуць ката за хвост (у 2 знач.); шарварку адрабляць. — *Каб вы далі ватоўку. — На. На і ватоўку, — рашуча шкуматнуў яе з плеч Брытвін. — Толькі не цягні рызіну.* Быкаў. *Падрыхтаваўшыся гэтак, сам сабе скамандаваў — ну, Лаўрэне, хопіць табе, хлопец, тут ігрaцца, як пан Вішпінг, хопіць цягнуць рызіну.* Карпюк. — *А я мушу пра сваё пацікавіцца. — Дык цікаўцеся, не цягніце рызіну. У мяне — зерне. — Колькі рэйсаў вы сёння зрабілі, таварыш Сенажэнскі?* Капусцін.

**ЦЯГН`УЦЬ С`ОК (-І)** *з каго. Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Бязлітасна эксплуатаваць, прыгнятаць каго-н., даводзіць да беднасці. **Сін**.: вазіць ваду *на кім*; высмоктваць сок *з каго, з чаго* (у 1 знач.); выціскаць пот *з каго* (у 1 знач.); выціскаць сокі *з каго*; драць скуру *з каго* (у 1 знач.); піць кроў *з каго, чыю* (у 1 знач.); цягнуць гізунты *з каго*; цягнуць жылы *з каго*; цягнуць кішкі *з каго. Не знесла іх з зямлі хваля рэвалюцыі, гэтых павукоў... Трывожаць яшчэ яны нас, цягнуць сок з цёмнай працоўнай жанчыны...* Галавач. *Адурманьвае прасвітар людзей, цягне з іх сокі...* «Звязда».

**ЦЯГНУЦЬ ЯРМО (ЯРЭМЦА)** *<каго, якое>. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Доўгі час займацца цяжкай і аднастайнай справай. **Сін**.: гнуць <сваю> спіну (у 1 знач.); грэць лоб; ліць пот; мазоліць рукі; не разгінаць спіны; сем патоў выліць (у 1 знач.); сем патоў сагнаць; цягнуць лямку *<каго, чаго>. Антось жа правіў гаспадарку, рабіў за двух, на сваім карку цягнуў ярэмца хлебароба.*

Колас. *У гаспадара было пяць дачок і тры сыны, яны і цягнулі ярэмца землябаў.* Машара. *Кастусь адчуваў сябе няёмка: усе мужчыны цягнуць акопнае ярмо, а ён сядзіць дома.* С.Александровіч. *Усё бачыў. Дык траіх дзяцей як было кінуць? Цягнуў ярмо. Ты мне за ўсё жыццё сарочкі не памыла, гузіка не прышыла...* Навуменка.

*ЦЯГУ* ● **ДАВАЦЬ ЦЯГУ.** Гл. даваць.

*ЦЯЖАР* ● **СКІДАЦЬ З СЭРЦА ЦЯЖАР.** Гл. скідаць.

*ЦЯЖАРУ* ● **ЦЭНТР ЦЯЖАРУ** *чаго.* Гл. цэнтр.

*ЦЯЖКАЙ* ● **З ЦЯЖКАЙ ДУШОЙ.** Гл. душой.

*ЦЯЖКАЯ* ● **ЦЯЖКАЯ АРТЫЛЕРЫЯ.** Гл. артылерыя.

**ЦЯЖКАЯ РУКА** *ў каго.* Гл. рука.

*ЦЯЖКІ* ● **Ц`ЯЖКІ (-АЯ, -АЕ, -ІЯ) НА ПАД’`ЁМ.** *Вык. ці азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Такі, што не любіць ісці, ехаць куды-н. **Ант**.: лёгкі на пад’ём (у 1 знач.). *Скрануць цяжка. Харошыя людзі, а на пад’ём цяжкія.* Цяжкі.

**2**. Лянівы, марудлівы, такі, што з вялікай неахвотай прымаецца за што-н. **Ант**.: лёгкі на пад’ём (у 2 знач.). *Пераважаюць тут дробныя гандляры і мяшчане-землеробы... Цяжкі гэта элемент на пад’ём...* Пестрак. *Цяжкі на пад’ём, самы сталы і разважлівы ў групе, ён [Жаркевіч] заўсёды здаваў залікі апошні.* Карпаў. *Трывай і цяпер, старычына, пахілы, цяжкі на пад’ём: ліхая настала часіна — на пенсію, братка, ідзём.* Русецкі.

**Ц`ЯЖКІ (-АЯ, -АЕ, -ІЯ) НА РУК`У.** *Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Жорсткі, дэспатычны, круты на расправу, моцна б’е. *Часам нават здаралася, што мужчына быў дэспатычны, цяжкі на руку.* «Полымя». *—Расстрэламі нас не запалохаеш. — Андрэй запхнуў газету ў кішэню. — Цяжкія на руку, сволачы! — уздыхнуў незнаёмец. — Страляюць без вокрыку, як у скаціну, якую трэба вынішчыць.* Лобан.

*ЦЯЖКІМ* ● **З ЦЯЖКІМ СЭРЦАМ.** Гл. душой.

*ЦЯЛЯ* ● **ЛАСК`АВАЕ (ЛІСЛ`ІВАЕ) ЦЯЛ`Я (ЦЯЛ`ЯТКА).** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Спрытны, дагодлівы чалавек, які ўмее пакарыстацца абставінамі. *[Паўліна:] І калі часамі муж захоча над табой уладу ўзяць... Ты не глядзі, што ён цяпер такім ласкавым цяляткам выглядае, ён яшчэ паспрабуе і кіпцюры выпусціць...* Крапіва. *З Раманам трэба інакш: ласкавым цялём падкаціцца, падпускаць лёстачкі – ён гэта любіць.* Блакіт.

**У БОГА ЦЯЛЯ ЎКРАЎ.** Гл. украў.

**ЦЯЛ`Я ЯЗ`ЫК АДЖАВ`АЛА** *каму*; **ЦЯЛ`ЯТЫ ЯЗ`ЫК АДЖАВ`АЛІ** *каму. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. недарэчы маўчыць, не хоча сказаць што-н. **Сін**.: язык адняўся *ў каго*; язык да зубоў прымёрз

*у каго*; язык прысох <да зубоў> *у каго, каму. Які чорт тут бы жыў, акрамя цябе, у загарадзі гэтай, дзе з-за таўканечы не павернешся. Дзіця пакупаць — начоўкі паставіць няма дзе... А каб шукаць кватэры — дык яму цяля язык аджавала...* Лынькоў. — *Табе што, язык цяля аджавала?.. — наступае на мужа Ірына Сцяпанаўна. — Дагаворвай, што хацеў сказаць...* Кавалёў. — *Што табе цяляты язык аджавалі?.. — Я ж не буду балбатаць абы-што, як ты, — важна адразаў Стасік і набіраўся яшчэ большай стрыманасці.* Няхай. — *А ты, хлопец, кім ёй даводзішся? — пытаўся Зубарэвіч. Захарка маўчаў. — Што, цяляты язык аджавалі? Гавары, не бойся.* Грахоўскі.

*ЦЯЛЯТ* ● **КУДЫ МАКАР ЦЯЛЯТ НЕ ГАНЯЎ.** Гл. макар.

*ЦЯЛЯТКА* ● **ЛАСКАВАЕ ЦЯЛЯТКА.** Гл. цяля.

**У БОГА ЦЯЛЯТКА ЎКРАЎ.** Гл. украў.

*ЦЯЛЯТЫ* ● **ЦЯЛЯТЫ ЯЗЫК АДЖАВАЛІ** *каму*. Гл. цяля.

*ЦЯЛЯЦІ* ● **АДАРВАЦЬ ГНІЛОМУ ЦЯЛЯЦІ ХВОСТ.** Гл. адарваць.

*ЦЯМ* ● **НІ ЗА КОЛ НІ ЗА ЦЯМ.** Гл. кол.

*ЦЯМНА* ● **АД ВІДНА ДА ЦЯМНА.** Гл. відна.

**АД (З) ЦЯМН`А ДА ЦЯМН`А.** *Акал. Разм.* **1**. Увесь дзень, з раніцы да вечара (рабіць што-н.). **Сін**.: ад відна да цямна; ад зары да зары (у 1 знач.); ад расы да расы; ад цёмнага да цёмнага. **Ант**.: ад відна <і> да відна; ад зары да зары (у 2 знач.); ад цямна <і> да відна. *А гадзіне пятай устане [Алесь], паедзе, а гадзіне сёмай увечары прыедзе. Ад цямна да цямна.* Шынклер. *[Бацька] быў заўсёды вельмі заняты працай, можна сказаць, што ён працаваў з цямна да цямна.* Чорны.

**2**. Вельмі доўга, напружана (працаваць і пад.). *Быў [Ігнат] тут не толькі лесніком, але адначасова кучарам, качагарам, лакеем і нават нянькай у пана ляснічага. Працаваў з цямна да цямна, не разгінаючы спіны.* Шамякін. *Цяжкая праца на беднай пясчанай зямлі не палохае людзей. Яны працуюць ад цямна да цямна.* Дамашэвіч.

**АД (З) ЦЯМН`А <І> ДА ВІДН`А.** *Акал. Разм.* Усю ноч, з вечара да раніцы. **Сін**.: ад відна да відна; ад зары да зары (у 2 знач.). **Ант**.: ад відна да цямна; ад зары да зары (у 1 знач.); ад расы да расы; ад цёмнага да цёмнага; ад цямна да цямна (у 1 знач.). *Гэта ўчора ўсё яна [перапёлка] ад цямна і да відна, на хвілінку сціхла б хоць, звала ўсё: «Ідзі палоць!»* Вітка. *[Рэчка] турбіны круціла.. з цямна да відна.., не сціхала, святло выраблялa...* Куляшоў. – *Нас нейкі бусел пільнуе, ад цямна да цямна, – паказваем гасцям на белакрылага птаха.* Пашкоў.

**ЦЯМНА ВАДА ВА ОБЛАЦЭХ.** Гл. вада.

*ЦЯМНЕЕ* ● **ЦЯМН`ЕЕ (ЗЕЛЯН`ЕЕ) У ВАЧ`АХ** *у каго, каго*; **ЦЯМН`ЕЛА (ПАЦЯМН`ЕЛА, ПАЗЕЛЯН`ЕЛА) У ВАЧ`АХ** *у каго, каго. У безас. ужыв. Разм.* Каму-н. становіцца дрэнна, блага (ад хвалявання, слабасці,

страху і пад.). **Сін**.: кругі ў вачах плывуць *у каго*; свет пераварочваецца *каму*; свет пераварочваецца ў вачах *чыіх. Ад думкі, што Саша цяпер, магчыма, на спатканні з другім, у яго цямнела ў вачах, ён стагнаў, як ад болю, і паўтараў самыя бязлітасныя словы, якія скажа ёй.* Шамякін. *З незвычайнай шпаркасцю закружыліся ў галаве мыслі і гады — да болю шпарка, аж пацямнела ў вачах.* Каваль. *Каця заўважыла незнаёмую і спытала ў сяброўкі, хто гэта ў іх начуе. У Карпаўны пацямнела ў вачах, у скронях напружана затахкала кроў: што адкажа Юля?..* Краўчанка. *У адзін момант усё пазелянела ў вачах Максіма, і лес закружыўся, заскакаў.* Колас. *— Добры дзень, кажу, а ў самога з перапалоху аж у вачах пазелянела.* Кузьмянкоў.

*ЦЯМЦЯ* ● **Ц`ЯМЦЯ-Л`ЯМЦЯ.** *Адз. і мн. Часцей вык. Праст. Неадабр.* Няспрытны, марудлівы чалавек. **Сін**.: цюха-мацюха. *Трэба будзе паслаць да вас такога чалавека, каб ён нагнаў холаду розным цямцям-лямцям і проста прахвостам.* Колас. *— Ты ж прыродная культасветніца, Магдуся. Да чаго ж добра ў цябе выходзіць... — А ты, мусіць, думаў, Магдуся твая цямця-лямця. Пакуль цябе не было, я таксама сяму-таму навучылася, каб падзяліцца потым з людзьмі набытым.* Пальчэўскі. *Што вы, цётачка?.. Мой жа Парфіль такі цямця-лямця. Ён ніколі так не скажа на вас.* С.Александровіч. *Ніхто не ведае, дзе камісар. Цямці-лямці гэтыя плячыма паціскаюць.* Міська.

*ЦЯНІ* ● **У ЦЯН`І (У Ц`ЕНЮ, У ЦЯНЬК`У).** *Акал. ці вык. Разм.* **1**. Непрыкметным, непрыкмечаным (быць, заставацца, трымацца, стаяць, знаходзіцца і пад.). *Дзеці прызнавалі больш матчын аўтарытэт, бацька заўсёды знаходзіўся як бы ў цяні.* Шамякін. *Неяк непрыкметна Збынеўскі зрабіўся самым блізкім чалавекам у камандзіра атрада, нечым падобным ні то на саветніка, ні то на камісара, хоць ён трымаўся ў ценю і дужа не выпінаўся на першы план.* Лынькоў. *Дапусцім, што вас бачылі там не раз. Дапусцім, што на вас накіраваў хто-небудзь, хто хацеў сам застацца ў ценю.* Мележ. *І сочыцца мірны алей з языкоў у лорда Сесіля і Поля Банкура, і ў тых, што за імі ў цяньку стаяць.* Крапіва. *[Нікановіч] стараецца быць неяк ззаду, у цяньку, каб, крый божа, не зачапіла сляпая куля ці які асколак.* Дамашэвіч.

**2**. Без асаблівай увагі, на другім плане (трымаць, пакідаць каго-, што-н.). —*Толькі баюся, Баніфацый... што ты трымаеш мяне ў ценю перад цэнтрам... — Пасля аперацыі трэба, каб вы ўсе сабраліся да мяне. Я абвяшчу вам, што перадалі мне з цэнтра. От тады ты ўпэўнішся, трымаю я цябе ў ценю ці не, пане маёр.* Чарнышэвіч.

*ЦЯНЬКУ* ● **У ЦЯНЬКУ.** Гл. цяні.

*ЦЯП* ● **Ц`ЯП ДЫ Л`ЯП (Ц`ЯП-Л`ЯП).** *Акал. Разм.* Абы-як, нядбала, спехам (рабіць што-н.). **Сін**.: абы дзень адбыць; абы дзень да вечара (у 1 знач.); абы з рук; з плеч ды ў печ (у 2 знач.); з пятага на дзесятае (у 2 знач.); па канец рук; праз пятае ў дзесятае (у 2 знач.); пусці паралюся (у 2 знач.); спусціўшы рукавы; сяк-так (у 2 знач.); сяк-так накасяк <абы не па-людску>; цапам-лапам; цапу-лапу; цераз пень калоду (у 1 знач.). **Ант**.: душы паслухаючы; з аганьком; закасаўшы рукавы; не пакладаючы рук. *Цяп ды ляп, ды на «а можа» — рабіць не гожа... Ні к чорту не варта такая работа!* Шынклер. *[Лютынскі:] Мы ж павінны паказваць больш культурныя і рацыянальныя спосабы карыстання зямлёй. Прывыклі мы да расійскага «цяп-ляп», дык нам усякая культурная навіна чортам здаецца.* Крапіва. *Вадаправод — не плот, нават не хлеў, не хата. Што плот ці будыніна якая? Там, калі дзе зроблена абы-як, цяп-ляп, усё відаць. А вадаправод?* Дуброўскі.

*ЦЯПЕР* ● **ВОЗ І ЦЯПЕР ТАМ.** Гл. воз.

**НЕ ЦЯП`ЕР ДЫК (ТО) У ЧАЦВ`ЕР.** *Акал. Разм. Часцей ужыв. пры дзеясл-вык. зак. тр.* Калі-небудзь, у бліжэйшым будучым і абавязкова (будзе што-н.). **Сін**.: гэтымі днямі (у 1 знач.); з дня на дзень (у 1 знач.); на <гэтых> днях (у 1 знач.); не сёння-заўтра; рана ці позна. *[Паўліна:] Усё роўна, кажа, я цябе зжыву адгэтуль. Не цяпер дык у чацвер. Я, кажа, знайду прычыну.* Крапіва. *Калі становішча абвастрыцца, не раю марудзіць. Не цяпер дык у чацвер прыйдзецца брацца за зброю.* Няхай. *[Куторга:] Пачакай жа, я ж табе не дарую гэтай штукі,— не цяпер то ў чацвер.* Дунін-Марцінкевіч. *Як зробіш дабро, дык хоць некалі, але і табе дабром адплоціцца. А зло заўсёды табе злом абернецца, не цяпер то ў чацвер.* Арабей.

*ЦЯРПЕННЯ* ● **ПЕРАПАЎНЯЦЬ ЧАШУ <ЦЯРПЕННЯ>.** Гл. перапаўняць.

**ЧАША <ЦЯРПЕННЯ> ПЕРАПОЎНІЛАСЯ.** Гл. чаша.

*ЦЯЦЕРА* ● **ГЛУХ`АЯ ЦЯЦ`ЕРА.** *Адз. і мн. Часцей у знач. зваротка. Праст. Груб.* Чалавек, які кепска чуе. Пра мужчыну ці жанчыну. **Сін**.: глухі цецярук. *Аднойчы [сябры-маляры] бялілі сцены ў новым доме. Нешта спатрэбілася аднаму, і ён крычаў-крычаў на свайго глухога сябра, аднак той не чуў. Тады маляр са злосці напісаў на сцяне: «Глухая цяцера».* Сабаленка. *— Маглі б і са Слуцка папа прывезці. Калі свайго не дапросішся... — От цяцера глухая... Сказана — нельга цяпер папам абы-дзе службу правіць!* Місько. *[Пацалуйка:] Крычаў я, крычаў я: «глухія цяцеры! Байца мне ў падмогу трафеі цягнуць!»* Клімковіч.

**С`ОННАЯ ЦЯЦ`ЕРА.** *Адз. і мн. Часцей вык. Праст. Неадабр.* Чалавек, які вельмі любіць паспаць; соня. — *Табе, Саня, на Поўнач супрацьпаказана ехаць, няможна. Калі тут соннай цяцерай ходзіш,*

*то там — на хаду засынаць будзеш. — Гэта я, Сцяпанавіч, сонная цяцера? — закапыліў губу Шчыгол.* Масарэнка. *Ну, а як жа тыя «сонныя цяцеры» ? У кнігагандлі? Хіба няма іх у нас?* «ЛіМ».

*ЦЯЧЭ* ● *Чыя, якая* **КРОЎ ЦЯЧЭ Ў ЖЫЛАХ** *чыіх, каго.* Гл. кроў.

**СЛІНКА ЦЯЧЭ** *ў каго.* Гл. слінка.

*ЦЯЧЭННІ* ● **ПЛЫСЦІ ПА ЦЯЧЭННІ.** Гл. плысці.

*ЦЯЧЭННЯ* ● **ПЛЫСЦІ СУПРАЦЬ ЦЯЧЭННЯ.** Гл. плысці.

## Ч

*ЧАГО* ● **АД НЯМА ЧАГО РАБІЦЬ.** Гл. няма.

**ДЗЯЛІЦЬ НЯМА ЧАГО** *каму.* Гл. няма.

**НА ВЫПАДАК ЧАГО.** Гл. выпадак.

**НІ З ЧАГ`О (НІ З Ч`ОГА) НІ З `ЯКАГА.** *Акал. Разм.* Нечакана і без усякіх прычын. **Сін**.: без дай рады; без нічога ніякага (у 3 знач.); без усякага-якага; за будзь здароў (у 1 знач.); за пусты мех <а ў мяху смех>; за так (у 2 знач.); з ласкі на пацеху; не знай не ведай; ні з таго ні з сяго; ні села ні пала; так сабе (у 1 знач.). *Гаварылі мы.. ціха-спакойна, а яна, ні з чога ні з якага, маўчочкам паднялася і пусцілася бежкі...* Масарэнка. *То, надзеўшы нямецкія даспехі, без бою ўвойдуць [дружыннікі] у замак і палоняць тузін рыцараў... То як быццам ні з чога ні з якага загарацца сярод ночы нямецкія караблі ў гавані...* Арлоў.

**НЯМА ЧАГО БОГА ГНЯВІЦЬ.** Гл. няма.

**НЯМА ЧАГО <БОГУ> ГРАШЫЦЬ.** Гл. няма.

**НЯМА ЧАГО ГРАХУ ТАЦЬ.** Гл. няма.

**НЯМА ЧАГО КАЗАЦЬ.** Гл. няма.

**НЯМА ЧАГО ТРАЦІЦЬ** *каму.* Гл. траціць.

**ЧАГО БОГА ГНЯВІЦЬ.** Гл. няма.

**ЧАГ`О Д`ОБРАГА.** *У знач. пабочн. сл. Разм.* Можа здарыцца (што-н. нечаканае, непрыемнае). **Сін**.: таго і глядзі. *[Кацярына:] І я раздумалася; пайду замуж за Мацейку, а то, чаго добрага, пасля адрачэцца.* Купала. *—Гэтак, чаго добрага, і другую ноч давядзецца начаваць тут! — у роспачы крыкнуў Віктар.* Маўр. *Людміле хацелася спытаць — як хворы, ці выжыве, але баялася пытацца ў Івана Іванавіча. Толькі што ён так накрычаў на яе. Яшчэ, чаго добрага, зноў накрычыць. Скажа, што не ведае, выжыве паранены ці не.* Арабей.

**ШТО <І> ДА ЧАГО.** Гл. што.

**ЯШЧЭ ЧАГО НЕ ХАПАЛА.** Гл. хапала.

*ЧАЙ* ● **ІВАН-ЧАЙ**. Гл. іван.

**НА Ч`АЙ** <u>*даць, атрымаць*</u> і пад. *Дап. Разм.* Як узнагароду за

дробныя паслугі; чаявыя. *Падарунак не падарунак, — а хутчэй, ад свайго дабрадушша накінуў на чай за мужчынскі, суровы і стрыманы той пацалунак...* Караткевіч. *Гэтыя двое яму не спадабаліся. Па-першае, яны паспрабавалі сунуць рублёўку на чай...* Нядзведскі. *Дайшы негру на чай, Рэндал прысеў на мяккую плюшавую канапу, разгледзеўся.* Гамолка.

*ЧАЙНАЙ* ● **У ГАДЗІНУ ПА ЧАЙНАЙ ЛЫЖЦЫ.** Гл. лыжцы.

*ЧАКАЕ* ● **ЧАС НЕ ЧАКАЕ.** Гл. час.

*ЧАКАНКІ* ● **<УСЕ> ЧАКАНКІ ПАЕСЦІ.** Гл. паесці.

*ЧАКАЦЬ* ● **НЕ ПРЫМУСІЦЬ <ДОЎГА> СЯБЕ ЧАКАЦЬ.** Гл. прымусіць.

**ЧАК`АЦЬ З М`ОРА ПАГ`ОДЫ.** *Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Заставацца ў пасіўным, вымушаным, няпэўна-доўгім чаканні каго-, чаго-н. *[Данута:] Урэшце мне ўсё надакучыла, і я засела дома, пачала, як кажуць, чакаць з мора пагоды...* Валасевіч. А *мой жа яшчэ пад Новы год абяцаўся прыехаць. Чакай з мора пагоды!..* Ракітны. *Ці мала што можа здарыцца?! Хоць бы з тымі самымі вагамі. Зломіцца што-небудзь, сапсуецца, а ты кукуй, чакай з мора пагоды!..* Макарэвіч.

*ЧАЛА* ● **У ПОЦЕ ЧАЛА.** Гл. поце.

*ЧАЛАВЕК* ● **ЯК АДЗ`ІН ЧАЛАВ`ЕК.** *Акал. Разм.* Ужыв. пасля слова *ўсе.* Без выключэння, поўнасцю; абсалютна (усе). **Сін**.: ад мала да вяліка; ад малога да вялікага; да аднаго; да апошняга (у 3 знач.); *усе* да душы; як адзін (у 1 знач.). *Партызан убачылі праз цьмяныя акенцы вучні і ўсе як адзін чалавек сыпанулі на двор.* Карпюк. *І павяла і пагнала зноў — усе як адзін чалавек — маленькая Зялёная Дуброва карой, коней, авечак з уласных хлявоў і хлевушкоў у калгасныя.* Васілевіч. *Я заўтра прыйду, інструкцыі вам прынясу. Вы ўсе як адзін чалавек патрэбны, каб хутчэй наладзіць парадак у рэспубліцы.* Чарняўская.

*ЧАЛЕ* ● **НА ЧАЛ`Е** *з кім. Акал. Функц. не зам.* Пад кіраўніцтвам каго-н. *Паліцыя і ўсё начальства на чале з губернатарам да нашага сходу паставяцца вельмі сурова.* Колас. *Позняй раніцай некрашоўская міліцыя на чале з Кандратам Сарокам запрэгла рэўкомаўскага каня і паехала шукаць у хутаранцаў награбленую у Ванькоўшчыне маёмасць.* Лобан.

**СТАЯЦЬ НА ЧАЛЕ** *чаго.* Гл. стаяць.

*ЧАЛОМ* ● **БІЦЬ ЧАЛОМ.** Гл. біць.

*ЧАМАДАНАХ* ● **СЯДЗЕЦЬ НА ЧАМАДАНАХ.** Гл. сядзець.

*ЧАМУ* ● **ЧАМ`У <Ж> Н`Е.** *У знач. сцвярдж. часціцы. Разм.* Ага, так. **Сін**.: а нягож; а як жа; дзіва што (у 1 знач.); яшчэ як. — *Ты ж ужо, сынок, не адмовішся адпісаць. Ужо выдзеліш вольную хвілінку. —Гэ, чаму не,*

*калі ласка.* Гартны. *[Начдыў:] Уброд перайсці можна? [Дзед Бадыль:] Чаму не. Толькі берагі высокія — не ўз'едзеш, раскопваць трэба.* Крапіва. — *Ну, як — пагуляем сёння? — Чаму ж не, пагуляем.* Каваль. — *Абліччa не запамяталі? — Чаму ж не... Нос гарбаты. Абліччa загарэлае такое, як гарчыца.* Караткевіч.

*ЧАМЯРЫЦА* ● **ЧАМЯР`ЫЦА ЯГ`О В`ЕДАЕ.** *Часцей у знач. галоўн. ск. Праст. Неадабр.* Невядома. **Сін.**: агонь яго ведае; алах яго ведае; бог яго ведае; вятры яго ведаюць; кадук яго ведае; ліха яго ведае; немач яго ведае; нячысцік яго ведае; пярун яго ведае; трасца яго ведае; хто яго ведае; чорт яго ведае. [*Гарошка:*] *І чамярыца яго ведае, як гэта неяк хітра на свеце ўстроена!* Купала.

*ЧАПАЕ* ● **НЯХАЙ САРОЧКА НЕ ЧАПАЕ** *каго.* Гл. сарочка.

*ЧАПАЛАСУ* ● **ДАВАЦЬ ЧАПАЛАСУ** *каму.* Гл. даваць.

*ЧАРАДЗЕЙ* ● **МАГ І ЧАРАДЗЕЙ.** Гл. маг.

*ЧАРАПАХА* ● **ЯК ЧАРАП`АХА.** *Акал. Разм.* Вельмі марудна (ісці, паўзці, цягнуцца і пад.). **Ант.**: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы*; без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на адным дыханні (у 1 знач.); на зламанне карка (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсю моц (у 2 знач.); чуй дух; што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. *Шкада толькі, што ты не бяжыш, а цягнешся як чарапаха, хоць на буксір цябе бяры.* Шамякін. *[Коля] знарок націснуў на педаль і пабольшыў скорасць. — Ха-ха-ха! — смяяўся ён. — Мы паўзём як чарапаха.* Грамовіч. *Я прасоўваўся наперад як чарапаха, і кожны рух даваўся мне вялікім намаганнем.* Крыга.

*ЧАРАПАХУ* ● **ЯК БОГ ЧАРАПАХУ.** Гл. бог.

*ЧАРАЎНІК* ● **МАГ І ЧАРАЎНІК.** Гл. маг.

*ЧАРВЯК* ● **ЧАРВ`ЯК (ЧАРВЯЧ`ОК) ГРЫЗ`Е (Т`ОЧЫЦЬ)** *каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. моцна непакоіцца, сумняваецца ў чым-н. *Сядзіць пан Богут у тамленні і вочы ўзвёў на абразы, а чарвячок грызе сумленне — прадвеснік лазні і лазы.* Колас. *І ты ўжо не перажываеш, што Кум раздае афіцэрам англійскае сукно на мундзіры, а табе не дае. І не дасць! Усім не хапае. І ты не паскардзішся: у цябе гонар. Але чарвяк будзе цябе грызці.* Шамякін. *[Карнейчык:] Не кажы, ты нешта хаваеш ад мяне. Точыць цябе нейкі чарвяк. Пра гэта і Наталля*

*Міхайлаўна намякала.* Крапіва.

*ЧАРВЯКА* ● **ЗАЛІВАЦЬ ЧАРВЯКА.** Гл. заліваць.

**ЗАМАРЫЦЬ ЧАРВЯКА.** Гл. замарыць.

*ЧАРВЯКУ* ● *Трапілася, давялося, прыйшлося* **ЧАРВЯК`У НА ВЯК`У.** *Акал. Разм.* Аднойчы і нечакана. Пра рэдкі, шчаслівы выпадак. *І пасля гэтага не перастаў Цярэшка марыць пра зямлю. Любіў яе. І вось такі ж трапілася чарвяку на вяку — у дваццаць сёмым хутарок дастаўся.* Лобан. *Дзед дастаў з шафы пінжак. Ён аж свяціўся ад ордэнаў і медалёў. Анастасія Зіноўеўна.. тут ужо не вытрымала: — Ну і тарабаніць языком, не раўнуючы, як мянташкай... Давялося чарвяку на вяку.* «Полымя». *Ты кожнага дня ляціш куды хочаш, і я не пытаюся, дзе ты была. А калі на вяку чарвяку раз прыйшлося...* Навуменка.

*ЧАРВЯЧОК* ● **ЧАРВЯЧОК ГРЫЗЕ** *каго.* Гл. чарвяк.

*ЧАРГУ* ● **У П`ЕРШУЮ ЧАРГ`У.** *Акал. Функц. не зам.* Першапачаткова, раней за што-н. іншае. **Сін**.: першым дзелам; першым чынам; у першую галаву. *Пераборлівыя сталі занадта. Красунь шукаеце і забываецеся, што не ўсё золата, што блішчыць. У чалавека павінна быць у першую чаргу прыгожая душа.* Шамякін. «*Пан, зразумела, — звярнуўся ён [дырэктар] да іхняга Цабы, — лепшых вучняў накіруе да мяне, у чацвёрты клас, а гэтага Мальца, — у першую чаргу, абавязкова*». Брыль. *У дзень фізкультурнага свята ў першую чаргу варта назваць тых, хто сёлета выйшаў пераможцам у рэспубліканскіх спаборніцтвах.* «Настаўн. газ.».

**У СВА`Ю ЧАРГ`У.** *Акал. Функц. не зам.* Са свайго боку, у адказ, адпаведна. *Хлопцы адрэкамендаваліся і ў сваю чаргу спыталіся, як яго зваць і як ён трапіў у рукі бандытаў.* Маўр. *Камендант аддаў мне рапарт, а я ў сваю чаргу задаў яму некалькі звычайных пытанняў, які настрой у салдат, ці няма дэзерціраў і гэтак далей.* Якімовіч. *Антось, у сваю чаргу, расказаў аб адным бандыце Брандоўскім — сыне былога хутараніна-кулака.* Пестрак.

*ЧАРКА* ● **Ч`АРКА (-У) У Ч`АРКУ** *піць.* *Акал. Разм.* Аднолькава з кім-н., не ўступаючы каму-н. *Дружней мужчыны насядалі, і наш Яхім, хоць і бажыўся, але й з бажбою піць зляжыўся. А далей ён такім жа чынам рабіў замінкі тут мужчынам, але піў чарку ў чарку з імі.* Колас. *На пачатку [Іван] многа піў, а яна чакала яго з пагулянак і плакала, але потым — як прасвятленне на яе найшло, стала хадзіць разам з ім і піла чарка ў чарку. Ён спяваў, і яна спявала.* Навуменка.

*ЧАРКАЙ* ● **ЗА Ч`АРКАЙ (-Ю).** *Акал. Разм.* У часе выпіўкі. **Сін**.: на брывах. *Смелыя ваякі.. пры вольных размовах, асабліва за чаркай, дазвалялі сабе нестандартныя выказванні пра даваеннае жыццё,*

*нямецкую тактыку або пра НКВД.* Быкаў. *Пасля студэнцкае пары, гады праз тры, сустрэліся за чаркаю сябры.* Скрыпка. *Новая генерацыя палітыкаў у большасці сваёй людзі незнаёмыя, адразу не зблізішся, нават за чаркай.* Шамякін.

**ПАД Ч`АРКАЙ.** *Акал. і вык. Разм.* У стане ап'янення. **Сін**.: на брывах; на вушах; на падпітку; на ўзводзе; пад газам; пад градусам; пад мухай; пад хмяльком; пад шафэ. *[Русаковіч:] Чаму гэта я буду глупства гаварыць? [Марыя Васільеўна:] Пад чаркай ты можаш.* Крапіва. *А ты не бачыў, які Леўчык дамоў ідзе. Заўсёды пад чаркай.* Чарнышэвіч.

*ЧАРКУ* ● **ГЛЯДЗЕЦЬ У ЧАРКУ.** Гл. глядзець.

**ЧАРКА Ў ЧАРКУ.** Гл. чарка.

*ЧАРНІЛЬНАЯ* ● **ЧАРНІЛЬНАЯ ДУША.** Гл. душа.

*ЧАРТАЎШЧЫНА* ● **ШТ`О ЗА ЧАРТАЎШЧ`ЫНА!** *Выкл. Праст.* Вокліч незадавальнення, здзіўлення, неразумення. Што гэта значыць, як гэта зразумець?! **Сін**.: што за ліха!; што за трасца!; што за хвароба!; што за чорт! *«Значыць, зноў пралік! Што за чартаўшчына! Зноў прыйдзецца засмуціць Дымка!.. — бадай што роспачліва надумаў Васіль Пятровіч. — А той, як на злосць, здае, траціць вытрымку...»* Карпаў. *Камбат над картай раз і два схіляўся, красаў запалкі: — Што за чартаўшчына! Пазначан лес — а дзе ён падзяваўся? Адны хмызы з імхамі па лагчынах.* Зуёнак.

*ЧАРТОЎ* ● **ЧАРТОЎ ГАНЯЦЬ.** Гл. ганяць.

*ЧАРЦЕЙ* ● **ЧАРЦЕЙ ГАНЯЦЬ.** Гл. ганяць.

*ЧАРЦЯМ* ● **ЧАРЦЯМ МЛОСНА.** Гл. млосна.

*ЧАС* ● **ЗОРНЫ ЧАС** *чый, для каго.* Гл. гадзіна.

**З ЧАСУ НА ЧАС.** Гл. часу.

**КАЛІФ НА ЧАС.** Гл. каліф.

**РЫЦАР НА ЧАС.** Гл. рыцар.

**У Д`ОБРЫ Ч`АС!** *Выкл. Разм.* Вокліч пажадання поспеху, удачы пры пачынанні чаго-н. **Сін**.: з богам (у 1 знач.). *[Гарлахвацкі:] Думаю арганізаваць пры інстытуце сектар палеанталогіі. Як вы глядзіце на гэта? [Чарнавус:] Што ж, у добры час!* Крапіва. *[Юрась:] Бывай, Несцерка! У добры час!..* В.Вольскі. *Камандзір паціснуў рукі: — Што ж, Міхед, у добры час!* Астрэйка.

**Ч`АС АД Ч`АСУ.** *Акал. Функц. не зам.* **1**. Праз некаторыя прамежкі часу, непастаянна, часамі, зрэдку. **Сін**.: ад выпадку да выпадку; не-не ды і; час-часом. *Час ад часу даносілася страляніна: партызаны ў лагеры выпрабоўвалі зброю.* Пестрак. *Рыбак памацаў па сцяне рукамі, у адным месцы адкалупаў кавалак тынкоўкі, разламаў яго пальцамі і*

*пачаў час ад часу шпурляць у кут — палохаць пацукоў.* Быкаў. *Сядзім і час ад часу выглядаем у акно.* Палтаран.

**2**. Паступова, з цягам часу. Пра паступовае ўзмацненне ці аслабленне чаго-н. **Сін**.: крок за крокам (у 1 знач.). *Вялікі і шумлівы горад паступова выкрываў свае дадатныя для Рыгора магчымасці. Час ад часу кола яго знаёмых пашыралася.* Гартны. *Час ад часу ўзнікае патрэба ўносіць і тыя ці іншыя змены і ўдакладненні ў існуючыя нормы і правілы.* Крапіва. *Час ад часу балоты нецярпліва падбіраліся да самага шляху, а то і перахоплівалі яго.* Мележ.

**Ч`АС НЕ ЧАК`АЕ.** У *безас. ужыв. Функц. не зам.* Неабходна спяшацца з выкананнем чаго-н. *Толькі ў кузнях агонь не згасае: зброю рыхтуюць, а час не чакае.* Дубоўка. — *Вось і добра. Будзем спадзявацца на ўсё лепшае, — падбадзёрыў капітан і, працягнуўшы руку, дадаў: — аднак давайце развітвацца, час не чакае.* «Настаўн. газ.».

**Ч`АС ПРАБ`ІЎ (ПРАБ`'Е)** *<чый, каго>. У безас. ужыв. Функц. не зам.* Настала пара для чаго-н. *Роб зняў стужку і міжвольна прыжмурыўся. На ёй быў напісаны іх смяротны прысуд. Лепш бы не ведаць, калі праб'е іх час, бо лягчэй паміраць адразу, нечакана.* Гамолка. *Калі ж мы скончым свой шлях чалавечы, праб'е наш апошні час, — будуць настойліва нашы рэчы напамінаць пра нас.* Вярцінскі. *А час праб'е — мы пойдзем нема тады ў любыя пераплёты.* Маляўка.

**Ч`АС-ЧАС`ОМ.** *Акал. Разм.* Праз няпэўныя прамежкі часу, непастаянна, зрэдку. **Сін**.: ад выпадку да выпадку; не-не ды і; час ад часу (у 1 знач.). *Тады зноў свякроў пачала бубніць нешта старому на вуха і бубніла аж за поўнач, а ён усё маўчаў і час-часом уздыхаў.* Крапіва. *[Трахім:] Чорт жа цябе і бяры, калі гэтак, калі табе шкада, што я час-часом лустачку хлеба з'ем.* Калюга.

*ЧАСАМ* ● *Жыць* **Ч`АСАМ З КВ`АСАМ, А ПАР`ОЮ З ВАД`ОЮ.** *Акал. Разм.* Па-рознаму — сытна і надгаладзь. *На франтах было ўсяляк: як гаворыцца, часам з квасам, а парой з вадой.* Лынькоў. *Яшчэ ў бытнасць студэнтам напрактыкаваўся, як той казаў, жыць часам з квасам, а парою з вадою.* Сабаленка. *Прызвычаіліся да лесу, збіралі грыбы, арэхі, ягады, мелі так-сяк асабісты агарод, з якога жылі часам з квасам, а парою з вадою.* Якавенка.

*ЧАСАННЕ* ● **ЧАС`АННЕ ЯЗЫК`А**. *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Пустаслоўе, балбатня. **Сін.**: пераліванне з пустога ў парожняе (у 2 знач.); тары-бары <растабары> (у 1 знач.). *Лазовіку карцела папікнуць: ну-у, ты па часанні языка не ўступіш любой кабеце, але стрымаўся.* Блакіт.

*ЧАСАЦЬ* ● **ЧАС`АЦЬ ЯЗ`ЫК (ЯЗЫКІ).** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Гаварыць упустую, пустасловіць. **Сін**.: араць дарогі; біць язык аб зубы (у 2 знач.); блынды правіць; гарадзіць плот <*каму*>; званіць у <разбіты> лапаць; круціць вала <за хвост> (у 2 знач.); ліць ваду; мазоліць язык; малоць языком (у 1 знач.); малоць не падсяваючы; мянціць языком; пераліваць з пустога ў парожняе (у 2 знач.); плесці кашалі <*каму, пра каго, пра што*>; плесці кашалі з лапцямі; плесці лапці; пляскаць языком; разводзіць антымоніі; разводзіць тары-бары; тары-бары <растабары> (у 2 знач.); таўчы ваду ў ступе (у 2 знач.); тачыць лясы <*з кім*>; травіць баланду (у 1 знач.); трапаць языком; часаць языком. *Вось папала моду! Не прапусціць сходу, усё язык там чэша...* Крапіва. *Яны аб ксяндзах, яны аб папах... Нашлі аб чым языкі часаць.* Лынькоў.

**2**. Распаўсюджваць плёткі, абгаворваць каго-н. **Сін**.: апалосквaць косці *чые, каго* (у 1 знач.); малоць языком (у 2 знач.); мыць языком *каго, што*; мянціць языком (у 2 знач.); перабіраць <усе> костачкі *чые, каго, каму* (у 1 знач.); перамываць костачкі *чые, каго, каму* (у 1 знач.). *Знаходзіліся гэткія людзі, якім выгадна было пашыраць розную брахню, абы часаць языкі, іншыя ад злосці на Прыдатных і Берагаў стараліся выкарыстаць выпадак і ад сябе выдумлялі ўсякія байкі.* Гартны. *Людзі тым часам языкі чэшуць: — Дык ён жа перапрадае іх [птушак] і гэтым самым вунь якую капейку зарабляе.* Чыгрынаў.

**ЧАС`АЦЬ ЯЗЫК`ОМ (ЯЗЫК`АМІ).** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Гаварыць упустую, пустасловіць. **Сін**.: араць дарогі; біць язык аб зубы (у 2 знач.); блынды правіць; гарадзіць плот <*каму*>; званіць у <разбіты> лапаць; круціць вала <за хвост> (у 2 знач.); ліць ваду; мазоліць язык; малоць языком (у 1 знач.); малоць не падсяваючы; мянціць языком; пераліваць з пустога ў парожняе (у 2 знач.); плесці кашалі <*каму, пра каго, пра што*>; плесці кашалі з лапцямі; плесці лапці; пляскаць языком; разводзіць антымоніі; разводзіць тары-бары; тары-бары <растабары> (у 2 знач.); таўчы ваду ў ступе (у 2 знач.); тачыць лясы <*з кім*>; травіць баланду (у 1 знач.); трапаць языком; часаць язык (у 1 знач.). *Пакуль Колька часаў языком, Юрка з Алёшам адсоўвалі цяжкія вагонныя дзверы.* Грахоўскі. *У сяло Шэмет не заязджаў, ссадзіў Конана ў канцы, каб языкамі не пачалі часаць.* Лобан.

*ЧАСЕ* ● **БАЛЬ У ЧАСЕ ЧУМЫ.** Гл. баль.

**НА Ч`АСЕ.** *Акал. Разм.* Тады, калі патрэбна; своечасова. *Ідзеш ты к нам, Насцечка, на часе, будзе табе хараша ў калгасе.* Крапіва. *Бабёр пастарайся сказаць на часе, што заявы можна пісаць і алоўкам.* Пестрак.

**ПА Ч`АСЕ.** *Акал. Разм.* **1**. Пасля таго, як што-н. здарылася, адбылося. *[Лявон:] Што ўспамінаць, чаго не вернеш! Кожны па часе мае розум.* Купала. — *Па часе і ты разумная, — тупаў па хаце раззлаваны Спірыдон, не знаходзячы месца, на чым можна было б прысесці.* Пальчэўскі.

**2**. Занадта позна, запознена (адбылося што-н., рабіць што-н.). *Па вопратцы тутэйшыя сяляне. Нявідны крыху сумеўся: у іх абліччы і поглядзе, кінутым на яго занадта ўважна, яму паказалася штось не зусім ладнае. Але зварочваць у лес цяпер ужо было па часе.* Колас. *Наказ яго [Грамабоя] дайшоў па часе, калі ўсё ўжо было гатова.* Крапіва.

*ЧАСІНА* ● **ЗОРНАЯ ЧАСІНА** *чыя, для каго.* Гл. гадзіна.

*ЧАСТКІ* ● **ДУША РАЗРЫВАЕЦЦА <НА ЧАСТКІ>** *чыя, у каго.* Гл. душа.

**РАЗРЫВАЦЦА НА ЧАСТКІ.** Гл. разрывацца.

*ЧАСУ* ● **ДА ПАРЫ ДА ЧАСУ.** Гл. пары.

**З Ч`АСУ НА Ч`АС.** *Акал. Функц. не зам.* **1**. У бліжэйшы час (чакаць, павінен прыйсці, прыехаць, з'явіцца і пад.). **Сін**.: вось-вось (у 1 знач.); з гадзіны на гадзіну; з мінуты на мінуту; з секунды на секунду. *Праўда яны [адказныя таварышы] прынялі належныя меры, але ўжо справа зайшла далёка, і можна баяцца, што з часу на час паліцыя навядзе пагром...* Гартны.

**2**. Праз некаторы час, з цягам часу (адбываецца што-н.). *Уваходныя дзверцы мурашніка мяняюцца з часу на час.* Колас.

**ЧАС АД ЧАСУ.** Гл. час.

*ЧАТЫРОХ* ● **З УС`ІХ ЧАТЫР`ОХ.** *Акал. Разм.* **1**. Вельмі хутка (бегчы, несціся і пад.). Звычайна пра каня. **Сін**.: з усіх капытоў. *Вало з гікам кінуўся да яе. Перацягнуў пугаю кабылу па азадку, і тая рванулася з усіх чатырох.* Лецка.

**2**. Вельмі напружваючыся (ісці, рвануць і пад.). Звычайна пра каня. **Сін**.: аж пуп трашчыць; ва ўсе лапаткі (у 2 знач.); высалапіўшы язык (у 3 знач.); з апошніх сіл; з апошняга; з усёй сілы (у 1 знач.); з усіх жыл (у 1 знач.); колькі <было> сілы (у 1 знач.); на поўную сілу (у 1 знач.); на ўсю моц (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 1 знач.). *Конь рвануў з усіх чатырох, скочыў уперад і лёг у гразь на жывот.* Пташнікаў.

**У ЧАТЫРОХ СЦЕНАХ.** Гл. сценах.

*ЧАТЫРЫ* ● **НА ЎСЕ ЧАТЫРЫ <БАКІ>.** Гл. бакі.

**НА ЧАТЫРЫ ВОКІ.** Гл. вокі.

*ЧАЦВЕР* ● **НЕ ЦЯПЕР ДЫК У ЧАЦВЕР.** Гл. цяпер.

**ПАСЛЯ ДОЖДЖЫКУ Ў ЧАЦВЕР.** Гл. дожджыку.

*ЧАЦВЯРЭНЬКАХ* ● **НА ЧАЦВЯР`ЭНЬКАХ** *пайзці, стаяць* і пад. *Акал. Разм.* Адначасова на абедзвюх руках і нагах. **Сін**.: на карачках. *На*

*чацвярэньках поўзаў на парозе йшчэ, а ўжо насіў я з барадою прозвішча...* Барадулін. *[Пракопчык] сам падае на немца, той адпіхвае яго ад сябе і рачкі, на чацвярэньках, спрабуе ўцячы.* Дамашэвіч. *[Міша] на чацвярэньках сігануў у шалашык, усё абмацаў — Міколкі не было.* Мыслівец.

*ЧАЦВЯРЭНЬКІ* ● **НА ЧАЦВЯР`ЭНЬКІ** <u>станавіцца, апускацца</u> і пад. *Акал. Разм.* Адначасова на абедзве рукі і нагі. **Сін**.: на карачкі (у 1 знач.). *[Іван] пралез скрозь гушчар маладога ельніку і, ледзьве спраўляючыся з дыханнем, апусціўся на чацвярэнькі.* Быкаў. *Я.. амаль праляцеў, прызямліўся на чацвярэнькі, і... цэлае мора полымя ахапіла маю галаву, рассыпаўшыся пасля вогненна-зялёнымі іскрамі.* Караткевіч.

*ЧАША* ● **П`ОЎНАЯ Ч`АША.** *Мн. не ўжыв. Вык. Функц. не зам.* Часцей ужыв. пры дзейн., выраж. наз. *дом.* Вельмі багаты, заможны, з вялікім дастаткам ва ўсім. *І дом у яе — поўная чаша...* Крапіва. *Дом Крамера — поўная чаша.* Навуменка. *Ёсць сем'і, у якіх дом — поўная чаша. І раптам аказваецца, што дзеці там пакутуюць ад дэфіцыту ўвагі з боку бацькоў.* «Настаўн. газ.».

**Ч`АША <ЦЯРП`ЕННЯ> ПЕРАП`ОЎНІЛАСЯ.** *У безас. ужыв. Функц. не зам.* Няма магчымасці цярпець што-н. *Скрытны які Грыша... А сёння перапоўнілася чаша — не вытрымаў...* Сіську. *[Дабрыня:] Да цябе маё слова, князь! Перапоўнілася чаша цярпення.* Петрашкевіч. *Чаша цярпення перапоўнілася. З праведным гневам выказвалі людзі набалелае.* «Звязда».

*ЧАШУ* ● **ВЫПІЦЬ ГОРКУЮ ЧАШУ ДА ДНА.** Гл. выпіць.

**ПЕРАПАЎНЯЦЬ ЧАШУ <ЦЯРПЕННЯ>.** Гл. перапаўняць.

**ПІЦЬ <ГОРКУЮ> ЧАШУ ДА ДНА.** Гл. піць.

*ЧАШЫ* ● **ХОЦЬ К`ОЛ НА ГАЛАВ`Е ЧАШ`Ы** *каму. Толькі ў гэтай форме. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Немагчыма пераканаць каго-н., растлумачыць каму-н. што-н. Пра ўпартага, няўступчывага чалавека. **Сін**.: хоць <ты> у лоб страляй *каму.* *«Чарцянё, а не дзіцянё, — сказала Рошчыха пра малодшага, пра Пецю. – Яму хоць кол на галаве чашы».* Шамякін. *Народ у мяне такі, што... Другому хоць кол на галаве чашы — не ідзе на работу, і ўсё.* Макаёнак. *Хоць кол ім на галаве чашы, а яны — сваё.* Прокша.

*ЧВЭРЦІ* ● **ТРЫ ЧВЭРЦІ** *да смерці.* Гл. тры.

*ЧМУРЫЦЬ* ● **ЧМУРЫЦЬ ГАЛАВУ** *каму.* Гл. дурыць.

*ЧМУЦІЦЬ* ● **ЧМУЦІЦЬ ГАЛАВУ** *каму.* Гл. дурыць.

*ЧОРНА* ● **Ч`ОРНА Ў Р`ОЦЕ** *ў каго. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Хто-н. вельмі злы, люты. *[Гарбачэўскі] падумаў: «У гэтага гада чорна ў роце. Лепей не чапаць».* Гурскі. *Як бывае часам ліслівы ябеднік, каб*

*лепш, падкусіць, пад'едзе, быццам з сэрцам на далоні: «Я ўвесь з табой, на, бяры мяне», а пасля бачыш, — гадзіна чорная, у роце чорна.* Мурашка. — А *нашто тваёй Таццянцы злая сучка? У яе ж і ў самой у роце чорна, — адказала Ядоха.* Сіпакоў.

*ЧОРНАЕ* ● **РАБІЦЬ З БЕЛАГА ЧОРНАЕ.** Гл. рабіць.

**ЧОРНАЕ ЗОЛАТА.** Гл. золата.

*ЧОРНАЙ* ● **МАЛЯВАЦЬ ЧОРНАЙ ФАРБАЙ** *каго, што.* Гл. маляваць.

*ЧОРНАЯ* ● **ЧОРНАЯ КОСТКА.** Гл. костка.

**ЧОРНАЯ КОШКА ПРАБЕГЛА** *паміж кім.* Гл. кошка.

*ЧОРНЫ* ● **НА ЧОРНЫ ПАЗНОГАЦЬ.** Гл. пазногаць.

**ЧОРНЫ ВОРАН.** Гл. воран.

**ЧОРНЫ ДЗЕНЬ.** Гл. дзень.

**ЧОРНЫ КОТ ПРАБЕГ** *паміж кім.* Гл. кошка.

**ЯК <ЧОРНЫ> ВОЛ.** Гл. вол.

*ЧОРНЫМ* ● **РАБІЦЬ БЕЛАЕ ЧОРНЫМ.** Гл. рабіць.

**У ЧОРНЫМ СВЯТЛЕ.** Гл. святле.

**У ЧОРНЫМ ЦЕЛЕ.** Гл. целе.

**Ч`ОРНЫМ ПА Б`ЕЛЫМ** <u>*напісана, надрукавана*</u> і пад. *Акал. Функц. не зам.* Вельмі дакладна, выразна, зусім пэўна, недвухсэнсава. *[Пытляваны:] Вось жа чорным па белым напісана: «Выдатныя дасягненні перадавога калгаса «Новая ніва».* Крапіва. *Там чорным па белым напісана, якія трэба даведкі, каб памяняць ваш дакумент.* Сачанка. *Пра канец свету чорным па белым было надрукавана ў «Бібліі».* Карпюк.

*ЧОРНЫЯ* ● **ГЛЯДЗЕЦЬ ПРАЗ ЧОРНЫЯ АКУЛЯРЫ** *на каго, на што.* Гл. глядзець.

*ЧОРТ* ● **АДЗ`ІН Ч`ОРТ** *<каму, для каго>. У безас. ужыв. Праст. Часта незадав.* Абсалютна аднолькава, без розніцы, не мае значэння для каго-н. **Сін**.: абы дзень да вечара *каму* (у 2 знач.); адзін хрэн *каму*; адна трасца <*каму*>; адна халера; адно ліха; і гора мала *каму*; і не шум баравы *каму*; ні горача ні холадна *каму ад чаго*; усё адно (у 2 знач.); усё роўна (у 4 знач.); хоць бы хны (у 3 знач.); хоць бы што (у 3 знач.); хоць воўк траву еш; хоць патоп; хоць трава не расці <*каму*>; што з гусі вада *з каго, каму*; як з гусака вада *з каго. Ты ссек дубок? Вось ніколі не спадзявайся!.. Э! Цяпер ужо ўсё роўна. Табе, можа, і лягчэй, а мне — адзін чорт.* Колас. *Я не куру. Для мяне што мультан, што не мультан — адзін чорт.* Брыль. *—Кельня... — Не кельня, а кельма, — паправіў яго брыгадзір. Сарока пацісnуў плячамі, — Адзін чорт, — сказаў ён флегматычна.* Кобец-Філімонава.

**АДЗ`ІН Ч`ОРТ В`ЕДАЕ (ЗН`АЕ).** *У знач. галоўн. ск. Праст.* Нікому невядома. **Сін**.: адзін алах ведае; адзін бог <святы> ведае; бог ведае;

ліха ведае; хто ведае; чорт ведае; чорт ведама. *Сліж не з тых, хто ўсё разумее... Усміхаецца, лашчыцца, як кот, а адзін чорт ведае, што ён думае...* Далідовіч. *Усё, што на Карчоў ідзе, ідзе і на яе, і адзін чорт знае, чым усё скончыцца! І адзін чорт знае, што зрабіць тут можна, як выбавіць яе!..* Мележ.

**ЗВЯЗ`АЎ Ч`ОРТ ВЯР`ОВАЧКАЙ** *каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. вельмі моцна сябруе з кім-н., кахае каго-н. **Сін**.: вадой не разальеш *каго*; не разлівада *з кім. Я ж бачыў, што яна ахвотна паспрачалася б са мною і болей на такую прыемную для яе тэму. І таму змоўк. Толькі надумаў: «Юзя, Юзя! Звязаў мяне з табою чорт вяровачкай...»* Гарэцкі. *На сон цягне? Недасыпаеш? Ну і звязаў вас чорт вяровачкай... Ніводнага вечара не прапусціце, каб не ўбачыцца!* Ярашэвіч. *[Юзаф:] Калі ж вы адважыцеся супраць волі бацькі — аб пасагу і размовы быць не можа... [Сяргей:] Воля бацькі... Пасаг... Спадчына... Звязаў нас чорт вяровачкай.* Васілеўскі.

**Н`А ТАБ`Е Ч`ОРТ (Ч`ОРЦЕ) ТАБ`АКІ.** *Выкл. Разм.* Вокліч расчаравання, незадавальнення з нагоды чаго-н. неспадзяванага, нечаканага. **Сін**.: на табе. *Будзе [Барсук] бараніцца і бараніць моладзь з-за боязі, каб самога не ўблыталі ў гэтую справу [падпал клуба], прападзі яна пропадам. Да таго... ключ яму даручылі ад гэтага клуба. А тут — на табе чорце табакі.* Пестрак. *[Шыдлоўскі:] Ды, бачыш, сына чакаў ён ад першых родаў. Юркам назваць збіраўся, а тут — на табе чорт табакі — дачку жонка нарадзіла ўчора.* Козел.

**НА ЯК`І Ч`ОРТ.** *Акал. Праст. Незадав.* Навошта, для чаго. **Сін**.: да д'ябла (у 3 знач.); на воўка; на ліха; на халеру; на хваробу; на храна; на чорта; на які ляд; на які хрэн; на якога чорта; на якое ліха; на якую трасцу; на якую халеру; якога ліха (у 1 знач.); якога ражна (у 1 знач.); якога хрэна (у 1 знач.); якога чорта (у 1 знач.). — *Бадай цябе агні спалілі! На які чорт слупоў набілі? — гаворыць дзядзька сам з сабою, пыл абіваючы рукою.* Колас. *Бавар, канешне, не прыедзе. Ды і на які чорт ён тут каму здаўся!..* Ракітны.

**НІ`ЯКІ Ч`ОРТ.** *Дзейн. Праст. Ужыв. ў адмоўн. ск.* Абсалютна ніхто. Пра людзей. **Сін**.: ні адзін сабака; ніякія сілы. *Калі ў цябе ёсць нелегальная літаратура, нясі яе мне. Схаваю пад прастол — ніякі чорт не дабярэцца да яе.* Колас. *[Леапольд Гушка:] Мне многа не трэба. Але каб гэтая зямля была мая. Каб ніякі чорт не меў права сказаць мне: вось табе воўчы білет, і ідзі ты, чалавеча, у вір галавой кідайся.* Чорны.

**НІ`ЯКІ Ч`ОРТ НЕ БЯР`Э (НЕ В`ОЗЬМЕ)** *каго. У безас. ужыв. Праст.* Абсалютна нічога не здараецца, не робіцца з кім-н., не шкодзіць каму-н. **Сін**.: кадук не бярэ *каго*; ліха не бярэ *каго*; ніякае

ліха не бярэ *каго*; ніякая трасца не бярэ *каго*; ніякая халера не бярэ *каго*; халера не бярэ *каго*; хвароба не бярэ *каго*; чорт не бярэ *каго. Ранавата ты здаеш, дружа, мы з табой ледзь не аднагодкі, а мяне яшчэ ніякі чорт не бярэ...* Хадкевіч.

**<САМ> Ч`ОРТ (Д’`ЯБАЛ) ГАЛАВ`У СКР`УЦІЦЬ (ЗЛ`ОМІЦЬ)** *<дзе, у чым>. У безас. ужыв. Праст.* Цяжка ці немагчыма разабрацца ў чым-н., аддзяліць адно ад другога. **Сін**.: <сам> чорт нагу зломіць *<дзе, у чым>* (у 1 знач.); сам чорт не разбярэ; чорт яго разбярэ. *Усё ройна мы не ведаем, куды ісці. Повідну хлопец прабяжыць, агледзіцца і знойдзе, а ноччу тут сам чорт галаву скруціць.* Лобан. *«Што гэта за дачыненні паміж імі абодвума і Мікалаем», — не мог прыставіць толку да галавы Мікуць... Тут ён зусім упэўніўся, што сам д’ябал тут галаву скруціў бы.* Чорны. — *Ды і я забавіўся, — сказаў Юозас. — У мяне таксама спраў — чорт галаву зломіць...* Броўка.

**<САМ> Ч`ОРТ НАГ`У (Н`ОГІ) ЗЛ`ОМІЦЬ (ПАЛ`ОМІЦЬ)** *<дзе, у чым>. У безас. ужыв. Праст.* **1**. Цяжка ці немагчыма разабрацца ў чым-н., аддзяліць адно ад другога. **Сін**.: <сам> чорт галаву скруціць *<дзе, у чым>*; сам чорт не разбярэ; чорт яго разбярэ. *У іх [праграмах розных палітычных партый] сам чорт нагу зломіць...* Колас. *Галавасты хлопец! Малады, а схему тую, у якой сам чорт нагу зломіць, разбірае — што семачкі лускае.* Шамякін. *Як тварыў наш свет Элогім, вы дагадвайцеся самі, бо ў «свяшчэнным» тым «пісанні» дык сам чорт паломіць ногі.* Крапіва.

**2**. Дзе-н. такі беспарадак, неразбярыха, што можна скалечыцца. **Сін**.: як мамай прайшоў *дзе. Там то пагоркі, то ямы, увалы — чорт нагу зломіць.* Быкаў. *Валошка адчыніць дзверы.., павядзе ў хату. «Глядзі пад ногі, бо ў нас тут вечна... чорт нагу зломіць».* Карамазаў. *Каля канюшынішча, у левай частцы лукавіны, сам чорт нагу зломіць... Бетонныя слупкі з дратамі яшчэ не ўсе пастаўлялі, накопана ям, валяюцца і слупы, і дрот.* Місько. *Не трэба нам тваіх балот, дзе ногі сам паломіць чорт.* Купала.

**С`АМ Ч`ОРТ НЕ БР`АТ** *каму. У безас. ужыв. Разм.* Каму-н. нічога не страшна, нічога не значыць, усё хоць бы што. **Сін**.: мора па калена *каму. — Цяпер куды болей разгону, — ажыўляецца Мартын. — Вясною і сам чорт нам не брат. Знай толькі лес ды добрую часіну з лесу паказацца...* Колас. *Астаўся сабе ў сталіцы, і цяпер сам чорт табе не брат: здаеш кандыдацкі мінімум і, глядзі, гады праз два набудзеш утульнае месца ў навуцы і сталічную кватэру з усімі выгодамі.* Васілевіч. *Ідуць яны [самалёты] чацвёркай па гэтых дарогах без слядоў, і сам чорт ім не брат.* Алешка.

**С`АМ Ч`ОРТ НЕ РАЗБЯР`Э.** *У безас. ужыв. Праст.* Цяжка ці

немагчыма зразумець, размежаваць, аддзяліць адно ад другога. **Сін**.: <сам> чорт галаву скруціць *<дзе, у чым>*; <сам> чорт нагу зломіць *<дзе, у чым>* (у 1 знач.); чорт яго разбярэ. *[Лeвановіч:] Тут у цябе такое творыцца, што сам чорт не разбярэ. Натыкаешся на такія сюрпрызы, дзе іх зусім не чакаеш.* Крапіва. *Тут сам чорт не разбярэ, што можна пісаць, а што не.* Машара. *І праўда — што там, у той Нямеччыне, за пагода, сам чорт не разбярэ.* Сачанка.

**ЦЬФУ ТЫ <ЧОРТ>!** Гл. цьфу.

**Ч\`ОРТ БЫ ЯГ\`О (Я\`Е, \`ІХ, ЦЯБ\`Е, В\`АС) УЗ\`ЯЎ (ПАБР\`АЎ)!** *Выкл. Праст.* Вокліч прыкрасці, абурэння ці захаплення, здзіўлення і пад. **Сін**.: авохці мне; бляха-муха; ёлкі зялёныя; ёлкі-маталкі; ёлкі-палкі; ё-маё; фу ты <ну-ты>; халера ясная; цьфу ты нячыстая сіла; цьфу ты <чорт>; чорт вазьмі; чорт ведае што такое. *Перад ім была такая зманлівая радасць, тая — чорт яе ўзяў бы! — яшчэ ўсё маладая паэзія, з-за якой і робяцца глупствы...* Брыль. — *Чорт бы вас узяў! — не стрымаўшы гневу, з ціхаю злосцю вылаяўся лейтэнант.* Быкаў. *[Мігуцкі:] Груган — цвярозая птушка. [Гудовіч:] Дык чаго ж гэта цвярозая птушка, чорт бы яе пабраў, так спакойна каркае, калі яна чуе пагібель?* Крапіва. *Ды я... чорт бы яго пабраў, усе снарады выпусціў у таго «фокера».* Алешка.

**Ч\`ОРТ ВАЗЬМ\`І (ПАБЯР\`Ы)!** *Толькі ў заг. л. Выкл. Праст.* Вокліч прыкрасці, абурэння ці захаплення, здзіўлення і пад. **Сін**.: авохці мне; бляха-муха; ёлкі зялёныя; ёлкі-маталкі; ёлкі-палкі; ё-маё; фу ты <ну-ты>; халера ясная; цьфу ты нячыстая сіла; цьфу ты <чорт>; чорт бы яго ўзяў; чорт ведае што такое. *Наладжваецца гуртовая маёўка. Трэба ж, чорт вазьмі, гульнуць хоць раз у год.* Колас. *Яшчэ пачакалі — нікога. Дзесяць гадзін па маскоўскаму часу — нікога. Чорт вазьмі!* Брыль. *Нехта даволі груба пацягнуў мяне за гімнасцёрку і злосна загадаў: — Вылазьце, чорт вазьмі.* Шамякін. *Мы маглі б і сёння ў наш апошні вечар, чорт пабяры, праехаць у мора.* Каваль.

**Ч\`ОРТ В\`ЕДАЕ.** *У знач. галоўн. ск. ці акал. Праст.* Невядома (што, хто, куды, які, як, колькі і пад.). **Сін**.: адзін алах ведае; адзін бог <святы> ведае; адзін чорт ведае; бог ведае; ліха ведае; хто ведае; чорт ведама. *[Міхаіл Фёдаравіч:] І трымалі вы сябе з ім вельмі вольна. Ён можа чорт ведае што падумаць.* Крапіва. *А што ж ты робіш цяпер? Я думаў, што ўжо чорт ведае якую пасаду маеш.* Чорны. *З непрывычкі хадзіць у цеснаце ён [ціўун] зачапіўся за кросны. — Наставіла чорт ведае чаго! — накрычаў ён на гаспадыню.* Якімовіч. *Ведаеш, Лукаш, пайшлі, а то наша размова можа завесці нас чорт ведае куды. Ды і мне пара ўжо.* Лобан. *Чорт ведае, як недарэчна ўсё атрымалася, скрозь адны няўдачы.* Быкаў.

**Ч`ОРТ В`ЕДАЕ ШТ`О.** *Часцей дап. Праст.* Штосьці надзвычайнае. **Сін**.: алах ведае што; бог ведае што; ліха ведае што. *Дарослых не было, дык цыганка ўхапілася за Машыну руку і наваражыла чорт ведае што.* Хомчанка. *[Антаніна Цімафееўна:] Сцёпа! Гэта чорт ведае што! Міліцыя зусім не сочыць за парадкамі! Па вуліцы бегаюць прыблудныя сабакі, кусаюцца...* Макаёнак. *Як лёгка можна зрабіць з чалавека чорт ведае што!* Дамашэвіч. *[Пятроў:] Асабіста вы дрэнна працуеце! У брыгадзе творыцца чорт ведае што, а вы занялі нейкую незразумелую пазіцыю...* Петрашкевіч.

**Ч`ОРТ В`ЕДАЕ ШТ`О ТАК`ОЕ!** *Выкл. Праст.* Выказванне абурэння, гневу, збянтэжанасці з-за чаго-н. **Сін**.: авохці мне; бляха-муха; ёлкі зялёныя; ёлкі-маталкі; ёлкі-палкі; ё-маё; фу ты <ну-ты>; халера ясная; цьфу ты нячыстая сіла; цьфу ты <чорт>; чорт вазьмі; чорт бы яго ўзяў. — *Чорт ведае што такое! — кажу. — Штаноў людскіх не могуць пашыць! На ліліпутаў яны шылі, ці што?* Крапіва. *Кіраўнік культурна-асветніцкага гуртка адчыніў дзверы, зірнуў на хлопцаў і спыніўся. — Чорт ведае што такое! Чаго цяпер спяваюць?* Галавач. *[Якаў Фаміч:] Чорт ведае што такое! Вось сітуацыя!* Матукоўскі.

**Ч`ОРТ В`ЕДАМА.** *У знач. галоўн. ск. ці акал. Праст.* Невядома (што, хто, куды, які, як і пад.). **Сін**.: адзін алах ведае; адзін бог <святы> ведае; адзін чорт ведае; бог ведае; ліха ведае; хто ведае; чорт ведае. *Ён чорт ведама што нарабіў на станцыі, а цяпер яшчэ будзе мець нахабнасць даваць мне парады.* Лынькоў. *І от ідзе Гарбач цяпер, і сон гэты не дае яму быту. Чорт ведама, што можа прысніцца чалавеку.* Мурашка. *Твая справа маім він ом чорт ведама каго частаваць?* Самуйлёнак. *[Лявон:] Прападаеш там на ферме ці чорт ведама дзе, гаспадарку закінула.* Макаёнак.

**Ч`ОРТ В`ЕРЫЎ** *каму. У безас. ужыв. Праст.* Хто-н. не выклікае даверу да сябе, няма падстаў верыць каму-н. *Ох, мачахі! І добрыя ж усе яны без меры, ды толькі чорт ім верыў.* Крапіва. *Чорт яму верыў. [Генерал] можа загадаць яшчэ раз хвастаць дубцамі. А тут навокал салдаты са стрэльбамі напагатове.* Якімовіч. *Пайшлі, Алесь. Чорт ім верыў. Давай у лес.* *Найдалей.* Брыль.

**Ч`ОРТ Г`ОНІЦЬ (ПРЫГН`АЎ)** *каго*; **Ч`ЭРЦІ Г`ОНЯЦЬ (ПРЫГН`АЛІ)** *каго. У безас. ужыв. Праст.* Хто-н. недарэчы, не ў пару прыходзіць, з’яўляецца. Выказванне незадавальнення ў сувязі з прыходам нежаданага госця, наведвальніка. **Сін**.: ліха гоніць *каго*; ліха нясе *каго*; нялёгкая гоніць *каго*; нялёгкая нясе *каго*; нячыстая <сіла> гоніць *каго*; нячыстая <сіла> нясе *каго*; нячысцік нясе *каго*; трасца нясе *каго*; халера нясе *каго*; чорт нясе *каго*. *Цяпер [Волька] паказвала, што яе*

*зусім не абыходзіць, каго там гоніць чорт дарогай.* Каваленка. *На момант запанавала цішыня... — А чаго іх чорт гоніць на наша? —Хто вам сказаў, што наша?* Крапіва. *[Цiток] зрабіў два крокі пад дзядзінец, быццам на двары ніякай Парасі і не было. Але ў самых варотах раптам абярнуўся: — Чаго цябе чэрці прыгналі?* Лобан. — *Хаця б чэрці Паўлюка не прыгналі, — думае Рыгор, кладучыся на мураве за Бярэзнікам.* Крапіва.

**Ч`ОРТ Д`АЎ** *каму. У безас. ужыв. Праст.* Наўрад ці магчыма што-н. (тое, пра што гаворыцца ў папярэднім выказванні). — *Як ты думаеш, дзядзька Язэп, — спытаўся я, — рызыкнуць яны разганяць Варонюю ці не? — Чорт ім даў, — адказаў дзядзька Туркевіч. — Пабаяцца.* Гарэцкі. — *Дык, можа, і Наздрэйка.. ішоў? — Чорт ім даў, каб абодвум разам прыспічыла, — буркнуў Пошта ўжо сярдзіта.* Крапіва.

**Ч`ОРТ ДЗЯЦ`ЕЙ КАЛ`ЫША** *каму. У безас. ужыв. Разм. Жарт.* Каму-н. вельмі шанцуе. *Пра Барташэвічаў казалі, што ім чорт дзяцей калыша.* Гурскі. *Трэба і старога разумець... Але што з ім раўняцца — такім і чорт дзяцей калыша...* Місько. *Корзун лічыў, што ён не з тых, каму чорт дяцей калыша.* Шыцік. *Удачліваму, кажуць, і чорт дзяцей калыша. А паляўнічаму, калі пашэнціць, дзічына сама на ружжо пхнецца.* «Вожык».

**Ч`ОРТ ЗАГН`АЎ (ЗАН`ЁС)** *каго куды*; **Ч`ОРТ ЗАГ`ОНІЦЬ (ЗАНЯС`Е)** *каго куды. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Хто-н. нечакана аказаўся дзе-н. **Сін**.: нялёгкая занесла *каго, куды. Антось бярэ куродым, сіта, глядзіць на гэты рой сярдзіта: вось не было яшчэ бяды! Загнаў жа чорт яго туды!* Колас. *[Жлукта:] Ці думаў я месяц таму назад, што чорт мяне загоніць сюды.* Крапіва. — *Думаў, куды вас чорт занёс, — падышоўшы, вітаецца Мікола з Гілем Лобікам.* Навуменка. *«Ба! Куды гэта мяне чорт занёс?» — занепакоіўся Гарбачоў і — заціх.* Шашкоў.

**Ч`ОРТ З БАЛ`ОТА.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Праст. Неадабр.* Невядома хто. **Сін**.: чорт лысы. — *Дык мо.. старшога пазваць? —Заві, кажу, хоць чорта з балота.* Крапіва. *Юля пазірала на Любу і злавала: не дзеўка, а чорт з балота, дурыць мужыкам галаву...* І.Капыловіч. *Для мяне твой зяць — чорт з балота, ці ён скаж[а] што, ці не.* Юрчанка.

**Ч`ОРТ З В`ЕДЗЬМАЙ Ж`ЭНІЦЦА (ЖАН`ІЎСЯ)** *дзе. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Завіруха разгулялася. **Сін**.: чэрці вяселле спраўляюць; чэрці жэняцца. *Ужо ноч была, і на дварэ чорт з ведзьмай жаніўся. Гойсала, свістала завіруха, снег церушыў, і цёмна-цёмна было вакол.* Лупсякоў. — *Завіруха ўзнялася... — Не інакш чорт з ведзьмай

*жэніцца, — крактануў бацька.* Калодзежны.

**Ч`ОРТ З `ІМ (З ТАБ`ОЙ, З `ЁЙ, З В`АМІ, З `ІМІ).** *Выкл. Праст.* Няхай будзе так, можна пакінуць без увагі. Выказванне згоды, прымірэння, уступкі і пад. **Сін**.: алах з табой; бог з табой; кадук з ім; ліха з ім; ліха яго бяры; трасца яго бяры; халера з ім; халера яго бяры; хвароба з ім; хрэн з ім; чорт яго бяры. *У цябе будзе закурыць? А то мае недзе ў.. кузні... Не? Чорт з ім... Пайду па дровы — прынясу...* Пташнікаў. *Шум і крык у камендanta, разышліся гандляры. Голас чуцен каменданта: — Чорт з табою! На, бяры!* Астрэйка. *«Чорт з ёю, з тою саломаю... Хоць бы сам не застудзіўся», — Волька расклала вакол печкі яго валёнкі і анучы.* Міська. *Зрэшты, чорт з імі, з пальцамі, цяпер яны былі не патрэбныя.* Быкаў.

**Ч`ОРТ ЛАЗ`АТЫ.** *Часцей адз. У ролі розных чл. ск. Праст. Неадабр.* **1**. Нягоднік, увасабленне зла. *Дабро ўбачылі, рады, што іх просіць туды нейкі чорт лазаты, а чаму ён сам не ідзе?* Галавач. *Вось толькі перад гэтым чортам лазатым [камендантам] трэба дрыжаць ды біць паклоны.* Якімовіч. *Не, ад мяне ты, чорт лазаты, спагады не дачакаешся!* Бажко.

**2**. Фамільярны зварот да каго-н. **Сін**.: чорт паласаты. *Я ледзьве не ашалеў, выкаціўся з машыны, крычу на ўсю Камароўку: «Віцька, чорт лазаты! Колькі летаў, колькі зім не бачыліся!»* Паслядовіч. *Выцягваю руку з акна сялянскай хаты і праз палі і лясы, праз усе адлегласці, што раздзяляюць нас, чокаюся з табою, чорт лазаты, шкалікам самагонкі — заўтра твой дзень нараджэння.* М.Капыловіч.

**Ч`ОРТ Л`ЫСЫ.** *Мн. не ўжыв. Часцей дзейн. ці дап. Праст. Неадабр.* Невядома хто. **Сін**.: чорт з балота. *Ды дзе ж ты набярэшся на ўсякага лысага чорта? Дый з якой рацыі?* Колас. *— Такая зямелька, такая зямелька. Век бы гною не трэ было класці. — Дзіва. Так апрацавана: і дзяды і бацькі ўгнойвалі... — А чорт лысы спажываецьме.* Галавач. *За такога каня вунь колькі тысяч можна ўзяць, а ты чорту лысаму аддаеш ні за панюх табакі.* Сабаленка. *Каму ахвота аддаваць чорту лысаму сваё дабро.* Грахоўскі.

**Ч`ОРТ М`АЕ (М`ЕЎ)** *чаго. У безас. ужыв. Праст.* Няма чаго-н. *— Я сам павяду машыну... — Не. Сёння ў цябе, брат, галава кружыцца. Сам павяду. Толькі от шафёрскіх праў чорт мае.* Чарнышэвіч. *— Солі нямашака. Учора апошнюю вытрусілі ў кацёл. А без солі... — Антонавіч, мілы, — ласкава пазіраючы ў вочы вусатаму, адказаў Русак. — І ў начальства яе чорт мае. Але хутка, сябры, здабудзем.* Гамолка. *Я хутка аб'ехаў вакол тумбы... Але самалётаў — чорт меў, месершміты зніклі, як прывіды.* Шамякін.

**Ч`ОРТ НЕ БЯР`Э (НЕ В`ОЗЬМЕ)** *каго. У безас. ужыв. Праст.* Нічога

не здараецца, не робіцца з кім-н., не шкодзіць каму-н. **Сін**.: кадук не бярэ *каго*; ліха не бярэ *каго*; ніякае ліха не бярэ *каго*; ніякая трасца не бярэ *каго*; ніякая халера не бярэ *каго*; ніякі чорт не бярэ *каго*; халера не бярэ *каго*; хвароба не бярэ *каго. [Мацейка:] А пасынка дык і чорт не бярэ, несалоную капусту жарэ!* Купала. — *А гэты сусед ваш, — Ягупла паказаў рукой на Давыдзюкову хату, — багата жыве? — Чорт яго не бярэ. Ён і пры старым парадку багата жыў, стараставаў, і цяпер жыве гэтак.* Галавач. *У гаспадара два япрукі на продаж. Заязджайце ў двор; таргуйцеся, дорага не давайце. Спусціць, чорт яго не возьме.* Чорны. *Хутчэй бы ўжо і нам у тое вучылішча падацца. Не дзеля армейскага пайка, вядома. Нас і без пайкоў чорт не возьме.* Сяркоў.

**Ч`ОРТ НЕ Ч`ОРТ І ДВ`А НЕ ВЫХ`ОДЗІЦЬ.** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Сярэдні, які нічым асаблівым не вылучаецца і якога цяжка кваліфікаваць. **Сін.:** з сярэдзінкі на палавінку (у 1 знач.); не бог ведае які; ні богу свечка ні чорту качарга; ні два ні паўтара (у 1 знач.); ні рыба ні мяса; ні сыры ні печаны; ні тое ні сёе (у 1 знач.); ні ў салдаты ні ў матросы; пасаліўшы можна есці; сюды-туды (у 3 знач.); сярэдзінка на палавінку; сярэдняй рукі; так сабе (у 3 знач.). *Дзіўны чалавек Палікар Дубік. Хутка год будзе, як жывём з ім у адным пакоі, а зразумець яго не можам. Пра такіх людзей звычайна кажуць: чорт не чорт і два не выходзіць.* Шальманаў.

**Ч`ОРТ Н`ОСІЦЬ (НАС`ІЎ)** *каго, дзе*; **Ч`ЭРЦІ Н`ОСЯЦЬ (НАС`ІЛІ)** *каго дзе. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Хто-н. недарэчы, не ў пару ходзіць, бадзяецца дзе-н. **Сін**.: каланіца носіць *каго дзе, калі*; ліха носіць *каго дзе*; нялёгкая носіць *каго дзе*; нячыстая сіла носіць *каго дзе*; нячысцік носіць *каго дзе*; халера носіць *каго дзе*; хвароба носіць *каго дзе*; чэрці душаць *каго дзе. «Дзе яго чорт носіць?» — вылаяўся Паходня і, заўважыўшы Грышу ў дзвярах магазіна, махнуў яму рукой, клічучы.* Хадкевіч. *Унь яны ідуць. Чорт іх носіць!* Чорны. — *Дзе вас чорт насіў? — перакрыкваючы гул малатарні, крычыць Даніла Налягач.* Асіпенка. — *Іван! Дзе цябе чэрці носяць? — першы вынырнуў з-за кустоў Шчэрба.* Шамякін. *Хутка поўнач, а яго чэрці недзе носяць...* Васілевіч.

*Куды, адкуль* і інш. **Ч`ОРТ НЯС`Е** *каго. У безас. ужыв. Ужыв. у пытальных ск. Праст. Неадабр.* (Куды, адкуль і інш.) хто-н. ідзе. **Сін**.: бог нясе *каго*; бура нясе *каго*; вецер нясе *каго*; ліха нясе *каго*; нячысцік гоніць *каго. Астап хацеў быў рушыць дахаты, але Ганна папярэдзіла: — Пачакай хіба, яны хутка. Даведаешся, можа, куды іх чорт нясе.* Лынькоў. *Атрахімку яшчэ падумалася: «Куды іх так рана чорт нясе?»* Сабаленка.

**Ч`ОРТ НЯС`Е (ПРЫН`ЁС)** *каго*; **Ч`ЭРЦІ НЯС`УЦЬ (ПРЫН`ЕСЛІ)** *каго. У безас. ужыв. Прост. Неадабр.* Хто-н. недарэчы, не ў пару прыходзіць, з'яўляецца. Выказванне незадавальнення ў сувязі з прыходам нежаданага госця, наведвальніка. **Сін**.: ліха гоніць *каго*; ліха нясе *каго*; нялёгкая гоніць *каго*; нялёгкая нясе *каго*; нячыстая <сіла> гоніць *каго*; нячыстая <сіла> нясе *каго*; нячысцік нясе *каго*; трасца нясе *каго*; халера нясе *каго*; чорт гоніць *каго. З параднага хода пачуўся званок. — Каго яшчэ чорт нясе? — сказаў незадаволена Цярэшка і выскачыў з кабінета.* Бядуля. *У вазок сеў дзед з унукам, пакацілі пакрысе. Раптам чуюць нейкі грукат, — і каго там чорт нясе?* Астрэйка. *«Чорт прынёс некага», — незадаволена падумаў Максім.* Шамякін. *[Незнаёмы чалавек] падазрона глядзіць на мяне і адразу ж знікае за дзверы. Мабыць, падумаў: чаго чорт прынёс сюды гэтага вайскоўца?* Сабаленка. *Нехта ідзе. Здаецца, жонка. Чэрці яе нясуць, не магла там пабыць.* Дамашэвіч.

**Ч`ОРТ ПАБЛ`ЫТАЎ** *каго. У безас. ужыв. Прост.* Хто-н. паддаўся спакусе (зрабіць які-н. учынак, звычайна нядобры). **Сін.**: чорт падбіў *каго. [Васіліна:] Не вінаватая я! Дальбог, чорт мяне паблытаў... Зяцёк дарагі...* Э.Валасевіч. *[Маслюк, устае на калені:] Дзядзечка, родненькі, даражэнькі, даруй рабу божаму. Чорт паблытаў.* Скрыпка.

**Ч`ОРТ ПАДБ`ІЎ** *каго. У безас. ужыв. Прост.* Хто-н. паддаўся спакусе (зрабіць які-н. учынак, звычайна нядобры). **Сін**.: чорт паблытаў *каго. Добра помню — на Іллю чорт падбіў грашыці! Узяў касу я ды смалю за раку касіці.* Васілёк. *А ўжо праз якія гадзіны дзве, дома, яна [Салвэсіха] на чым свет кляла сябе, што падбіў яе чорт у такую слізготу перціся невядома па што ў тую няшчасную краму...* Рыбак. *Пасля цётка Марыля сама расказвала Яськавай маці, як чорт падбіў яе на тое, каб нагарнуць таго паўмяшэчка жыта разам з мякінай...* Гіль.

**Ч`ОРТ ПАЛАС`АТЫ.** *Адз. і мн. Часцей у знач. зваротка. Праст.* Фамільярны зварот да каго-н. **Сін**.: чорт лазаты (у 2 знач.). *Зайздрошчу я табе, чорт паласаты!* Васілевіч. *Ды я яму, чорту паласатаму, і зараз спакою не даю.* Шашкоў. *Дык глядзіце ж, чэрці паласатыя, каб болей не падкачалі.* Лынькоў. *[Карнейчык:] Эх, браткі мае! Чэрці паласатыя! Давайце збяромся калі-небудзь... Ну хоць бы ў мяне. Пагаворым, спяём што-небудзь...* Крапіва.

**Ч`ОРТ ПАН`ЁС** *каго куды. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Хто-н. недарэчы, не ў пару пайшоў, паехаў куды-н. **Сін**.: нялёгкая панесла *каго, куды, да каго. — Чорт цябе панёс якраз па інструмент! —*

*злосна сказаў Нічыпар, калі Ромацка таксама падышоў да музыкаў.* Кулакоўскі. *Як, чым [чарнабровы ўкраінец] угаварыў Улю ехаць з ім, Змітро не ведаў, у той дзень чорт панёс яго ў Лахву.* Марчук.

**Ч`ОРТ ПАЦЯГН`УЎ ЗА ЯЗ`ЫК** *каго. У безас. ужыв. Праст.* Знянацку і недарэчы захацелася каму-н. сказаць што-н. **Сін.**: пацягнула за язык *каго. Чорт мяне пацягнуў за язык сказаць, што я з рэдакцыі.* Шамякін. *Прабач мне, Лізачка. Чэснае слова, каб я ведала, што ты яго кахаеш, а то ж… і пацягнуў мяне чорт за язык.* Макаёнак. *Чорт пацягнуў мяне за язык: – А мо і ты ванну прымеш з дарогі?* Місько. *Пацягнуў яго чорт за язык прызнавацца ў тым, што ён, аканом буйнога землеўладання Ежы Урбановіч, наўпросты нашчадак франдзёра і напалеонаўскага прыслугача.* Наварыч.

*Чый* **Ч`ОРТ СТАР`ЭЙШЫ (СТ`АРШЫ)**. *У безас. ужыв. Разм.* Чыя-н. перавага, перамога ці слушнасць. — *Няпраўда!.. Я адганяў таго гусака, каб ён не задзюбаў маладых гусянятаў! І незнарокам... — Апраўдваешся... — Ты майстар на гэта, але, пакуль, няхай твой чорт будзе старшы...* Яновіч. [*Лепешаў*, с. 79: *чый* чорт старшы (старэйшы).].

**Ч`ОРТ СЯДЗ`ІЦЬ** *у кім. У безас. ужыв. Праст. Адабр. і неадабр.* Хто-н. занадта рухавы, энергічны, надзелены сілай, уменнем і пад. **Сін.**: нячыстая сіла сядзіць *у кім. Зноў жа — як мог Каін скора збудаваць адзін той горад? І які ў ім чорт сядзеў? Не было ж нідзе людзей.* Крапіва. *Ён даўно ведаў гэтую дзяўчыну. У ёй нібы чорт сядзеў — не магла доўга вытрываць без сур'ёзнай справы.* Новікаў. *Пан нахабна дапытваўся ў маці: — Чорт сядзіць і ў тваім мужыку. Хоча жыць — хай не лазіць па лесе.* Бажко.

**Ч`ОРТ ЦЯГН`УЎ ЗА ЯЗ`ЫК** *каго. У безас. ужыв. Праст.* Знянацку і недарэчы хацелася каму-н. сказаць што-н. Выказванне шкадавання з прычыны сказанага. **Сін.**: пацягнула за язык *каго. Хапіла б аднаго, што Мікіта нібыта паверыў Зазыбавай выдумцы пра здадзены ордэн, але... чорт, як кажуць, цягнуў за язык.* Чыгрынаў. *Бедная, мілая Вера! Чорт яго цягнуў за язык! Знайшоў чым жартаваць!* Кірылаў.

**Ч`ОРТ ШТ`О** *чаго. У безас. ужыв. Праст.* Вельмі многа. **Сін.**: адбою няма *ад каго* (у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; valіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); да чорта (у 3 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; з горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не

відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. Наўмыснік памаўчаў і зноў абазваўся: —Па-мойму, то можна цагельню прыпыніць. Цэглы — чорт што.* Чорны. — *Хіба табе цяжка сказаць? — Не цяжка, але што ж я буду гаварыць не ведаючы. Ды часу няма, работы чорт што, — схлусіў Пошта, чуючы тут нейкую пажыву.* Крапіва.

**Ч`ОРТ ЯГ`О (Я`Е, `ІХ, ЦЯБ`Е, В`АС) БЯР`Ы (ВАЗЬМ`І, ЗАБЯР`Ы).** *Толькі ў заг.л. Выкл. Праст.* Няхай будзе так, можна пакінуць без увагі. Выказванне згоды, прымірэння, уступкі і пад. **Сін**.: алах з табой; бог з табой; кадук з ім; ліха з ім; ліха яго бяры; трасца яго бяры; халера з ім; халера яго бяры; хвароба з ім; хрэн з ім; чорт з ім. *Неўзабаве відна і рака. Але патрэбнага кораня ў алешыны Гарбач не бачыць. Ён махае рукою: чорт яго бяры, з тым кіем.* Мурашка. *То гэта, значыцца, от хто раскідаў маю хату. Чорт яе бяры, гэту ламачыну, але нашто ён гэта рабіў?* Чорны. — *Не хадзі, Мартын: у вёсцы салдаты польскія. —А чорт іх бяры! Ты правядзеш мяне.* Колас. *Абсунецца чалавек на зямлю. — І ляжы. Чорт цябе бяры! — скажуць на яго людзі, гэта гора ўбачыўшы, далейшым словам.* Калюга. «*Нічога не будзе, Мікіта*; *аддай, а то згубіш!» — «Ну, чорт вас, кажа, бяры, свае людзі, трэба даць».* Крапіва. *Ці, думаеце, дараваў бы я Латуту грошы, якія мне не дадаў? Ніколі. А так думаеш: чорт цябе вазьмі, з грашыма тваімі, падавіся ты, абжэра...* Каваль. *Андрушкі каля хаты не было. Чорт яго забяры, выспіцца дзе і пад кустом, яшчэ цёпла — і Ганна грукнула засаўкай.* Лобан.

**Ч`ОРТ ЯГ`О (Я`Е, `ІХ, ЦЯБ`Е, В`АС) В`ЕДАЕ.** *Часцей у знач. галоўн. ск. Праст.* Невядома. **Сін**.: агонь яго ведае; алах яго ведае; бог яго ведае; вятры яго ведаюць; кадук яго ведае; ліха яго ведае; немач яго ведае; нячысцік яго ведае; пярун яго ведае; трасца яго ведае; халера яго ведае; хвароба яго ведае; хрэн яго ведае; хто яго ведае; чамярыца яго ведае. — *Скажы ты мне, братка Максім, — пытаў*

*сябра Лабановіч, ужо лежачы з ім у пасцелі: — Для чаго чалавек на свеце жыве?.. — Ну, для чаго ж жыве?.. А чорт яго ведае, для чаго ён жыве, — прамовіў Турсевіч.* Колас. *Не ведаю... Ужо з дому гоняць... Чорт яго ведае, што рабіць?..* Галавач. —А *як тут узысці на двор? — Чорт яе ведае!* Чыгрынаў. — *Чорт цябе ведае, і не старэеш ты ніяк, — залюбавалася ёю [Зосяю] Аўдоля.* Крапіва. *Лукашонак ці Лукашык — чорт вас ведае! Жыва да камбата!* Дамашэвіч.

**Ч`ОРТ ЯГ`О (Я`Е, ЦЯБ`Е, `ІХ, В`АС) РАЗБЯР`Э.** *У безас. ужыв. Праст.* Цяжка ці немагчыма зразумець, размежаваць, аддзяліць адно ад другога. **Сін**.: <сам> чорт галаву скруціць <*дзе, у чым*>; <сам> чорт нагу зломіць <*дзе, у чым*> (у 1 знач.); сам чорт не разбярэ. *Урэшце, чорт яго разбярэ, хто тут жыве па абмылцы.* Колас. — *Гэты Рахлюк наробіць нам, што мы і не расхлёбаем. — Ты ж яго абараняў калісьці. — Чорт яго зразу разбярэ. Мне паказалася...* Крапіва. *Сасноўскі паглядзеў на Ігнатовіча: як гэта разумець. Той здзіўлена пацiснуў плячыма: чорт іх разбярэ!* Шамякін.

**Ч`ЫМ Ч`ОРТ НЕ ЖАРТ`УЕ!** *Выкл. Разм.* Усё можа здарыцца, усякае бывае. Выказванне дапушчальнасці ці магчымасці чаго-н. непрадбачанага, нечаканага. *[Надзя:] А наконт студэнта ты так і паверыў? [Валодзя:] У жыцці ўсяк бывае. Чым чорт не жартуе, думаю сабе.* Крапіва. А *што, чым чорт не жартуе! Чаму, сапраўды, той яго брат павінен працаваць абавязкова на якой другой будоўлі, а не на гэтай?* Васілёнак. *Мо ўдасца навярстаць трохі ўпушчаныя дні... Можа, і добрае што пачуем, рэдкаснае... А мо шэдэўр які — чым чорт не жартуе?!* Місько. *Віктар на дробязях падкусваць будзе, але чым чорт не жартуе! Ляпне пад гарачую руку!* Блакіт.

**ШТ`О ЗА Ч`ОРТ!** *Выкл. Праст.* Вокліч незадавальнення, здзіўлення, неразумення. Што гэта значыць, як гэта зразумець?! **Сін**.: што за ліха!; што за трасца!; што за хвароба!; што за чартаўшчына! *Сакратар ячэйкі атрымаў ліст. Ён два разы прачытаў яго і нічога не мог зразумець. «Што за чорт? Не абярэшся гэтага ліха».* Галавач. — *Што за чорт! — сказаў Курыдзе. — Салдаты, мусіць, далёка адсталі!.. Ці, можа, другой дарогай паехалі?* Самуйлёнак. *Была поўнач, мы ішлі па лесе. Раптам наперадзе сярод дрэў мільгануў агонь. Што за чорт? Тут жа не павінна быць ні вёскі, ні леснічоўкі...* «Полымя».

<u>Баяцца</u> **ЯК (БЫ) Ч`ОРТ КР`ЫЖА.** *Акал. Разм.* Вельмі моцна (баяцца каго-, чаго-н.). **Сін**.: як агню; як чорт ладану. *Сам баішся Стадольскага як чорт крыжа.* Машара. — *Ты мне толькі вось што скажы, як немцы ў баі? Ну, калі на іх знячэўку нападзеш... — Лесу як чорт крыжа баяцца.* Асіпенка. *А калі Барыс Багацька прагаласаваў*

*за калгас, дык зусім не таму, што быў яму рады, а каб дапячы Гужову, з якім даўно быў у сварцы і які бы чорт крыжа баяўся калгаса.* Быкаў.

**ЯК`І <Т`АМ> Ч`ОРТ.** *У знач. мадальнай часціцы. Праст. Ужыв. перад наз.* Выказванне іранічных, скептычных і пад. адносін да каго-н. **Сін**.: *які* ў чорта *хто, што*; якога хрэна (у 3 знач.). *[Куліна:] Яна ж яшчэ маладзенькая! Гэта ж дзіця горкае. [Ціхон:] Які чорт дзіця, калі з хлопцамі цалуецца!* Дунін-Марцінкевіч. *Які там чорт з жонкі піяка?! Толькі ўсяго разоў двойчы і памачыла Юзічыха губы. Як пакаштуе, скрывіцца, зморшчыцца...* Калюга. *— Дзе была? У сястры? — Які там чорт — у сястры? Збірала кожны дзень ягады ў лесе і насіла ў мястэчка прадаваць.* Пестрак.

**ЯК`І Ч`ОРТ.** *У знач. дзейн. Праст. Неадабр. Часцей ужыв. у пытальных ск.* Хто (робіць, зрабіў што-н.). **Сін**.: якая нячыстая сіла; які нячысцік. *Які тут чорт намаляваў мяне інакшым, як я ёсць? Такія вушы падаваў, так пакрывіў на спіне косць!* Купала. *Які ў цябе чорт край, мо сам захаваў дзе?..* Галавач. *— Які ж тут чорт можа хадзіць гэтакаю парою? — злосна сказаў бацька, але паганяць каня далей не асмельваўся.* Крапіва. *«Які чорт гнаў цябе з вёскі на хутар, у лес? Чаго ты там шукаў, у той пушчы?» — разважаў ён [Алесь].* Чарнышэвіч.

**ЯК`І Ч`ОРТ ЗАН`ЁС (ПРЫН`ЁС)** *каго куды. У безас. ужыв. Праст.* Як, пры якіх абставінах аказаўся хто-н. дзе-н. **Сін**.: які вецер загнаў *каго куды*; якім ветрам <занесла> *каго куды. —Маеце даручэнне праверыць архітэктара? — Маю. — А які чорт яго занёс туды?* Шамякін. *«О, халера, — стагнаў Васіль, увесь абліты потам, — які чорт мяне сюды прынёс...»* Чарнышэвіч.

**ЯК (НІБ`Ы, Б`ЫЦЦАМ) Ч`ОРТ ГАР`ОХ МАЛАЦІЎ (Ч`ЭРЦІ ГАР`ОХ МАЛАЦ`ІЛІ)** *на чым. Вык. ці азн. Разм.* Ужыв. пры дзейн., выраж. словам *твар.* Васпаваты, рабы. **Сін**.: хоць хрэн дзяры *аб што. Расфуфыраны такі хлюст. Толькі твар нібы на ім чорт гарох малаціў. Вельмі ўжо рабы.* Машара. *Чужасельскі нічога не сказаў. Прымёрз у парозе і паглядае спадылба. Мяне вельмі здзівіў яго твар, быццам на ім чэрці гарох малацілі: яміна на яміне.* Сяркоў.

**ЯК (НІБ`Ы) Ч`ОРТ ПАН`ЁС** *каго, што. У безас. ужыв. Праст.* Хто-н. ці што-н. вельмі хутка памчаўся (памчалася). *Падняло ўгару падводу, перадок зляцеў з калёс. Конь распрэжаны даў ходу, нібы чорт яго панёс.* Астрэйка. *Каровы рвануліся праз сенажаць да рэчкі: мучыць смага, бо паспелі нахапацца хутаранцавай канюшыны, а цяляты — тых як чорт панёс у лес...* Янкоўскі. *Неяк Пенін завёў матор, але сані не рухаліся. Тады ён злез і падштурнуў іх — сані як*

*чорт панёс, толькі снег курэў.* Левановіч. *Ну, а воз — як чорт панёс, ажно цяжка згледзець: Ясь адзін на сенакос да Яніны едзе.* Сушко.

**ЯК (НІБ`Ы) Ч`ОРТ УСС`ЕЎ** *на каго*; **ЯК (НІБ`Ы) Ч`ЭРЦІ УСС`ЕЛІ** *на каго. У безас. ужыв. Праст.* Хто-н. рэзка змяніў свае паводзіны ў горшы бок. *[Агата:] Каб яна слова благое сказала, каб яна вокам бессаромным на каго глянула. А тут як чэрці на яе ўсселі.* Крапіва. *Першы месяц праездзіў [я] з дзядзькам Кастусём ціха, мірна. Але потым — нібы чорт на яго ўссеў. Ніяк дагадзіць не патраплю.* Шальманаў.

**ЯК Ч`ОРТ АД Л`АДАНУ.** *Акал. Разм.* Усімі сродкамі, як толькі можна (пазбаўляцца, адмахвацца, уцякаць і пад. ад каго-, чаго-н.). *[Гурман] на просты харч глядзець не можа нават — і блізка не падносЬ! Як чорт ад ладану ён верне нос...* Валасевіч. *А новае мастацтва, розныя там ізмы? Прабягаеш залу галопам? Уцякаеш ад яго як чорт ад ладану?* Сяргейчык.

*Выскачыць, з'явіцца* **ЯК Ч`ОРТ З ТАБАК`ЕРКІ.** *Акал. Разм.* Зусім нечакана, знянацку. **Сін.**: як піліп з канапель. *І тут мы здзівіліся. Таму што на купе бітай цэглы з'явілася як чорт з табакеркі Нонка, якая цягнула за руку Карла...* Караткевіч. *На памост як чорт з табакеркі аднекуль выскачыў маленькага росту чалавечак у круглай вышыванай камілаўцы.* Б.Стральцоў.

*Баяцца* **ЯК Ч`ОРТ Л`АДАНУ.** *Акал. Разм.* Вельмі моцна (баяцца каго-, чаго-н.). **Сін.**: як агню; як чорт крыжа. *Дурненькая ты, ён цяпер «Пяргале» як чорт ладану баіцца.* Броўка. *Усе закаханыя страшэнныя эгаісты... Вось таму і я кахання баюся як чорт ладану.* Шамякін. *Ніводная дзяржава не згаджалася прапусціць нас праз сваю тэрыторыю — баялася нас як чорт ладану.* Левановіч.

*ЧОРТА* ● **ДА Ч`ОРТА.** *Праст.* **1**. *Акал.* Прэч (ісці, пайсці, гнаць, выганяць і пад.). Выказванне злосці на каго-, што-н., жадання пазбавіцца ад каго-, чаго-н. **Сін.**: да д'ябла (у 1 знач.); з вачэй *чыіх, каго* (у 2 знач.); з вачэй далоў (у 2 знач.); к чортавай матары (у 1 знач.); к чорту (у 1 знач.); на сухі лес. *Ота хацелася намачыць каравую мятлу ды патурыць да чорта і гэтых сапраўдных катоў, і гэтую пампушку касавокую з яе кашэчым вяканнем на гармоніку.* Брыль.

**2**. *Акал.* Ушчэнт, прахам (ляцець, паляцець, ісці і пад.). **Сін.**: да д'ябла (у 2 знач.); к чортавай матары (у 2 знач.); к чорту (у 2 знач.). *[Элеанора] адчыніла дзверы, строга бліснула вачыма і моўчкі падалася на кухню. Па гэтым бляску Іван зразумеў, што ўсё паляцела да чорта, — і той радасны настрой, і ўсё астатняе...* Гігевіч.

**3**. *каго, чаго. У безас. ужыв.* Вельмі многа. **Сін.**: адбою няма *ад каго*

(у 1 знач.); ад пуза (у 2 знач.); без ліку; без меры (у 1 знач.); будзь здароў (у 2 знач.); бяры не хачу <*чаго*>; валіцца цераз горла *ў каго*; вышэй вушэй *чаго*; вышэй галавы *чаго*; да гібелі *каго, чаго*; дай бог (у 4 знач.); дай бог кожнаму (у 3 знач.); да ліха (у 1 знач.); да масквы ракам не пераставіш *каго*; да халеры *каго, чаго*; да хваробы (у 2 знач.); дзякуй богу (у 3 знач.); з горла лезе *ў каго*; *з* горла прэ *ў каго*; імя *каму, чаму* легіён; канца-краю не відаць *чаму* (у 3 знач.); колькі ўлезе (у 2 знач.); колькі хочаш (у 1 знач.); мора разліўное (у 2 знач.); на валовай скуры не спішаш *чаго*; не кот наплакаў (у 1 знач.); непачаты край *чаго*; не хаханькі (у 2 знач.); пальцам не праткнуць *каго*; па <самае> горла (у 3 знач.); па <самую> завязку (у 3 знач.); па <самыя> вушы (у 4 знач.); плюнуць некуды; повен рот; праз меру (у 1 знач.); сорак саракоў *чаго*; у кожнай кішэні па жмені *каго*; хоць адбаўляй *каго, чаго*; хоць гаць гаці *каго, чаго, кім, чым*; хоць заваліся *чаго*; хоць заліся *чаго*; <хоць> плот гарадзі *кім, каго*; хоць <ты> махалам махай (у 2 знач.); цераз край *чаго*; цьма цьмушчая *каго, чаго*; цэлы воз *каго, чаго*; чортава гібель *каго, чаго*; чортава процьма *каго, чаго*; чорт што *чаго*; як бобу *каго*; як гразі *каго, чаго*; як дроў; як завязаць (у 2 знач.); як на дзяды (у 2 знач.); як сабак нярэзаных *каго. І наогул ужо нярана, ды дарога ў лес не працёрта, ды ваўкоў жа ў лесе да чорта: туды ехаць — шукаць сабе згубы: пападзіся ім толькі на зубы!* Крапіва. *Міхась стаў распытваць, як ім жывецца. Аказалася, што жылося ім не лёгка — турботаў і працы было да чорта, а сядзелі на паўгалодным пайку.* Машара.

**4**. *Акал.* Вельмі. *Наталя садзіцца поруч, румяная — навіхалася ў рабоце, — ямачкі на шчоках да чорта хораша круглеюць...* Скрыган.

**НА Ч`ОРТА (НА Д’`ЯБЛА).** *Акал. Праст. Незадав.* Навошта, для чаго. **Сін**.: да д’ябла (у 3 знач.); на воўка; на ліха; на халеру; на хваробу; на храна; на які ляд; на які хрэн; на які чорт; на якога чорта; на якое ліха; на якую трасцу; на якую халеру; якога ліха (у 1 знач.); якога ражна (у 1 знач.); якога хрэна (у 1 знач.); якога чорта (у 1 знач.). — *Няўжо мы, Алесь, такія бязвольныя, што гэтых спакус не можам здолець? Бо гэта ж ёсць прызнанне свайго бяссілля, раз ты баішся спакусы. — А на чорта змагацца з імі, калі гэтага можна ўнікнуць?* Колас. — *На чорта мы гэтую фурманку з сабой цягнем, — сказаў адзін бандыт. —Здалёк чуваць, як колы ляскочуць.* Чорны. *«Дзімка, не лезь ты да іх. На д’ябла яны табе здаліся», — утрымлівала хлопца дзяўчына.* Кузьмянкоў.

**НА ЧОРТА ПАДОБНЫ.** Гл. падобны.

**НА ЯК`ОГА Ч`ОРТА (Д’`ЯБЛА).** *Акал. Праст. Незадав.* Навошта, для чаго. **Сін**.: да д’ябла (у 3 знач.); на воўка; на ліха; на халеру; на

хваробу; на храна; на чорта; на які ляд; на які хрэн; на які чорт; на якое ліха; на якую трасцу; на якую халеру; якога ліха (у 1 знач.); якога ражна (у 1 знач.); якога хрэна (у 1 знач.); якога чорта (у 1 знач.). — *Хіба зачытаць прысуд? — На якога чорта прысуд гэты самы, вельмі ён ім патрэбны...* Лынькоў. *А мо сам [Сурміла] больш за ўсіх вінаваты? На якога чорта трэба было збіраць агульны сход, сцягваць усіх, каб схаўрусаваліся?* Блакіт. *[Ягадка:] Дык на якога ж д'ябла вы ўблыталіся ў гэтую брудную справу?..* Матукоўскі. *Хацеў Лявонка агрызнуцца: на якога д'ябла тая ватоўка — такая ж цяплынь!* Жычка.

**НІ Ч`ОРТА (НІ Д'`ЯБЛА).** *Акал. Праст. Неадабр.* Зусім нічога (няма, не ведаць, не разбірацца, не разумець і пад.). **Сін**.: голаму за пазуху; дзірка ад абаранка; ні грана; ні сінь-пораху; ні фіга; ні халеры; ні храна; ні шыша. — *Ні чорта вы не зрабілі. І грош цана такой вашай рабоце. — Ціхі і лагодны з віду, Нявідны загаварыў цвёрда і жорстка.* Колас. *[Міхаіл Фёдаравіч:] Ні чорта вы мяне не ведаеце. І я прашу без майго ведама маім жыццём не распараджацца.* Крапіва. *Ні д'ябла я ў гэтай палітыцы не разбіраюся.* Лобан. *Нас не відно, але і мы ні д'ябла не бачым.* Быкаў.

*Які (-ая, -ое, -ія)* **У Ч`ОРТА** *хто, што. У знач. мадальнай часціцы. Праст.* Выказванне іранічных, скептычных і пад. адносін да каго-, чаго-н. **Сін**.: які <там> чорт; якога хрэна (у 3 знач.). *[Кручкоў:] Ты ж чалавек бывалы і нядаўна хваліўся сваім розумам. [Куторга:] Які тут у чорта розум, калі так неасцярожна папаўся ў бяду.* Дунін-Марцінкевіч. *Які ж ты ў чорта барацьбіт за новае, калі не ўмееш як след разабрацца, хто за новае, а хто за старое!* Машара. *Цяпер туды ў сухое лета можна недзе нават ехаць. Якія тады на Пунішчы ў чорта сховы?* Пташнікаў.

**У Ч`ОРТА НА КУЛ`ІЧКАХ.** *Акал. Разм.* Вельмі далёка, у аддаленых мясцінах (быць, жыць, знаходзіцца і пад.). **Сін.**: блізкі свет; за дзесятай гарой; за светам; за трыдзевяць зямель; на край свету; у віру на калу; у чортавых зубах; у чорта на рагах; у чорта ў зубах. *Ну што ж, пойдзем па хатах. Я ў чорта на кулічках жыву. Праводзіць мяне не трэба.* Асіпенка. *Вы ведаеце, дзе суседняя армія? У чорта на кулічках суседняя армія. Жукаўку яшчэ не ўзяла.* Быкаў. *Яго, Міхалаў, хутар абрэзалі, як той казаў, па самае нельга, а яму ўзамен далі тры гектары пясчанай няўдобіцы, ды дзе – у чорта на кулічках.* Сабаленка. *Выходзіць тое, што для сябе няможна лавіць, а?.. Жывём у чорта на кулічках, а няможна рыбкай паласавацца, не даюць...* Масарэнка. *– Не суй носа ў чужое проса. – Праўда вочы коле… Што там, у чорта на кулічках, мёдам намазана?* Місько.

**У Ч`ОРТА НА РАГ`АХ.** *Акал. Разм.* Вельмі далёка, у аддаленых ці глухіх мясцінах (быць, жыць, знаходзіцца і пад.). **Сін**.: блізкі свет; за дзесятай гарой; за светам; за трыдзевяць зямель; на краі свету; у віру на калу; у чортавых зубах; у чорта на кулічках; у чорта ў зубах. *Аказалася, што Грыша працуе недзе ў чорта на рагах...* Асіпенка. *Адно шкада было, што патрачана багата часу — у Чубаравы планы ніяк не ўваходзіла калясіць у чорта на рагах.* Чыгрынаў. *Унук праўду казаў, што ён быў «у чорта на рагах»...* Пташнікаў. *Сосны [вёска] былі далёка за лініяй фронту, можна сказаць, у чорта на рагах.* Алешка.

**У Ч`ОРТА Ў ЗУБ`АХ.** *Акал. Разм.* Вельмі далёка, у аддаленых мясцінах (быць, жыць, знаходзіцца і пад.). **Сін**.: блізкі свет; за дзесятай гарой; за светам; за трыдзевяць зямель; на краі свету; у віру на калу; у чортавых зубах; у чорта на кулічках; у чорта на рагах. *Ды ці ж такую [кватэру] ужо атрымаеш?! Дадуць дзе-небудзь у чорта ў зубах маламетражку, і будзь здароў...* Васілёнак. *Шахты — нічога, можна жыць, каб толькі яны не за светам, не ў чорта ў зубах, бо пакуль дабярэшся туды, — нацерпішся ўсякага ліха.* Ракітны.

**Ч`ОРТА (Д'`ЯБЛА) Л`ЫСАГА.** *Праст.* **1**. *Выкл.* Зусім не, гэтаму не бываць. Выказванне катэгарычнай нязгоды, адмаўлення, пярэчання. **Сін**.: знайшоў дурня; нічога падобнага; няма дурных (у 1 знач.); скулу ў бок *каму*; трымай кішэнь шырэй; чорта з два (у 1 знач.); як бы не так. *Думаеш, я перфакарты пакінуў? Чорта лысага! Так што задачу трэба пачынаць з нуля.* Радкевіч. *Не, калі ён [Сяргей] ужо выбераца з гэтай завірухі, Тоську нікому не аддасць. Чорта лысага!* Кацюшэнка. *Ты што ж думаеш, адмовіўся б? Чорта лысага.* Крыга.

**2**. *Акал. Ужыв. для ўзмацнення адмоўя (часцей пры дзеясл.-вык. зак. тр.).* Ні пры якіх абставінах не (возьмеш, выседзіш і пад.). **Сін**.: чорта з два (у 2 знач.). *Я таксама адразу не зразумеў, а потым бачу — моцна трымае. Але ў мяне чорта лысага возьмеш!..* «ЛіМ». *Там бы [на вайне] мы сябе паказалі... А дома чорта лысага выседзіш.* Сяркоў. *— Д'ябла лысага ты разумееш! Ты проста недалёкае хлапчанё, тупак і недавучка, — казаў сяржант.* Быкаў.

**Ч`ОРТА З ДВ`А.** *Праст.* **1**. *Выкл.* Зусім не, гэтаму не бываць. Выказванне катэгарычнай нязгоды, адмаўлення, пярэчання. **Сін**.: знайшоў дурня; нічога падобнага; няма дурных (у 1 знач.); скулу ў бок *каму*; трымай кішэнь шырэй; чорта лысага (у 1 знач.); як бы не так. *[2-гі салдат:] Чачавічку сёрбаць зараз не будзем, чорта з два.* Колас. *Не, чорта з два! Буду біцца! Адзін за ўсіх — за Жаўтыха, Папова, Лук'янава, Крывёнка. За Панасюка. Інакш мне нельга.* Быкаў.

**2**. *Акал. Ужыв. для ўзмацнення адмоўя (пры дзеясл-вык. зак. тр.).* Ні пры якіх абставінах не (атрымаць, зламаць і пад.). **Сін**.: чорта

лысага (у 2 знач.). *[Калеснікаў:] Пытаюць у мяне, ці не чуваць чаго аб Маскве, аб фронце... усе вераць у нашу перамогу... Чорта з два зломіш такую армію, Павел Антонавіч.* Губарэвіч. — *Чорта з два яны бачаць пры такім асвятленні, — бубніў Лагуцін, угдядаючыся праз бінокль у тое месца, адкуль вырываліся ракеты.* Лобан. *Эксперыментальны раён.. патрабуе дадатковых асігнаванняў. Чорта з два вы атрымаеце іх цяпер!* Шамякін.

**ЯК`ОГА Ч`ОРТА (Д'ЯБЛА).** *Праст. Груб.* Выказванне абурэння чыімі-н. дзеяннямі, паводзінамі. **1**. *Акал.* Чаму, для чаго, з якой мэтай (робіць хто-н. што-н). **Сін**.: да д'ябла (у 3 знач.); на воўка; на ліха; на халеру; на хваробу; на храна; на чорта; на якi ляд; на якi хрэн; на якi чорт; на якога чорта; на якое ліха; на якую трасцу; на якую халеру; якога ліха (у 1 знач.); якога ражна (у 1 знач.); якога хрэна (у 3 знач.). *Эй ты, там, торба з кутасамі! Якога чорта гэта смаліш? Ты мне вагон увесь разваліш! Пакінь курыць, бо і праз дзверы праходзіць дым сюды без меры...* Колас. —*Ну, якога чорта маўчыш? — здрыгануўшыся ад сцюжы, пачаў ён траціць цярпенне.* Быкаў. *Якога д'ябла яна падкідае яму гэтыя бабскія, ды яшчэ сваяцкія праблемы?! Мала ў яго спраў па кіраўніцтву горадам.* Шамякін.

**2**. *Дап.* Чаго (трэба, не хапае каму-н.). **Сін**.: якога ліха (у 2 знач.); якога ражна (у 2 знач.); якога хрэна (у 2 знач.). *На службу вам зямля і неба даны, — адно пішы з душы. Якога ж чорта йшчэ вам трэба? Якой чакаеце імшы?!* Купала. *[Міхаіл Фёдаравіч:] Якога чорта яму трэба ад вас? [Віцця:] Вы не маленькі, самі павінны здагадвацца.* Крапіва.

*ЧОРТАВА* ● **ЧОРТАВА АКНО.** Гл. акно.

**ЧОРТАВА ВОКА.** Гл. вока.

**ЧОРТАВА ГІБЕЛЬ** *каго, чаго.* Гл. гібель.

**ЧОРТАВА ЗЕЛЛЕ.** Гл. зелле.

**ЧОРТАВА ЛЯЛЬКА.** Гл. лялька.

**ЧОРТАВА ПРОЦЬМА.** Гл. процьма.

**ЧОРТАВА СКУРА.** Гл. скура.

*ЧОРТАВАЙ* ● **К ЧОРТАВАЙ МАТАРЫ.** Гл. матары.

*ЧОРТАВЫХ* ● **У ЧОРТАВЫХ ЗУБАХ.** Гл. зубах.

*ЧОРТАМ* ● **ГАВАРЫ З ЧОРТАМ ПАЦЕРЫ!** Гл. гавары.

*ЧОРТАЎ* ● **ЧОРТАЎ ТУЗІН.** Гл. тузін.

*ЧОРТУ* ● **АН`У (Н`У) ЯГ`О (Я`Е, `ІХ) К Ч`ОРТУ.** *Выкл. Праст.* Выказванне незадавальнення, адмаўлення, нежадання рабіць што-н. **Сін**.: ану яго; ану яго к ліху; ну яго з манахам. — *Пакінуў гасцей у хаце ды ўцёк. Гневацца будуць. — Ану яго к чорту! Агорк мне сёння гэты пан Хвалідубскі з сваім плявузганнем, — адказаў спакойна Юзік.*

Крапіва. *А я ўсе гэтыя дні была ў Пінску, школу сваю закінула, ну яе к чорту.* Колас. *Алесь адказаў па-сурёзнаму, з новай, яшчэ не ўзмужнелай гордасцю: — Не, мы зусім пакінулі вучыцца. Будзем дома, як людзі, рабіць. Ну іх к чорту з іхняй гімназіяй!..* Брыль.

**К Ч`ОРТУ (К Д'`ЯБЛУ).** *Праст.* **1**. *Акал.* Прэч (ісці, пайсці, гнаць, выганяць і пад.). Выказванне злосці на каго-, што-н., жадання пазбавіцца ад каго-, чаго-н. **Сін**.: да д'ябла (у 1 знач.); да чорта (у 1 знач.); з вачэй *чыіх, каго* (у 2 знач.); з вачэй далоў (у 2 знач.); к чортавай матары (у 1 знач.); на сухі лес. *«Ідзі ты к чорту! Разам з усімі вамі — к чорту!..» — гаварыў ён [Данік] без слоў, усімі сіламі сваёй уражанай, як быццам ужо не дзіцячай душы.* Брыль. *Чырвоная Армія сарвала планы германскіх імперыялістаў і выгнала іх к чорту за межы Расіі.* Лобан. *— Даруй, брат. — Пайшоў к д'яблу!* Быкаў.

**2**. *Акал.* Ушчэнт, прахам (ляцець, ісці, рвацца і пад.). **Сін**.: да д'ябла (у 2 знач.); к чортавай матары (у 2 знач.). А *потым, брат, калі рвануўся, — усё к чорту — вуда і кручок, пайшоў гуляць мой шчупачок!* Колас. *Калі рванецца [сабака], дык, здаецца, і ланцуг той паляціць к чорту.* Крапіва. *К чорту ўсе пантоны змяты. Слава дзеду Дубняку! І машыны, і салдаты пакуляліся ў раку.* Астрэйка.

**3**. *У знач. пабочн. сл.* Выказванне іранічных адносін да каго-н. **Сін**.: да д'ябла (у 4 знач.). *Піша-піша чалавек [дысертацыю] і раптам бачыць: не туды яго штурханулі, не тое яму параілі, ды і наогул — які, к чорту, ён вучоны! Кампілятар, у лепшым выпадку — здольны тлумачальнік чужых думак...* Шамякін. *От што значыць не быць у сваёй старане доўгі час — забыцца можна, дзе твая ўласная хата стаіць. Чакай жа, якое там, к чорту, забыцца! Унь алешнічак, а гэта сухі грунт, а унь — сасняк...* Чорны.

**К Ч`ОРТУ НА Р`ОГІ** <u>ехаць, адпраўляцца</u> і пад. *Акал. Разм.* Вельмі далёка, у вельмі аддаленае ці цяжкадаступнае месца. **Сін**.: дзе макар козы пасе (у 1 знач.); за блізкі свет; за дзесятую гару; за свет; за свет вочы; куды крумкач касцей не заносіў; куды макар цялят не ганяў (у 1 знач.); на край свету (у 1 знач.). *І Коршчык глядзіць на гару Дабаркалн: — Туманам зацягнена. Нельга ў парогі пускацца. Загубім плыты каля скал, не трэба спяшацца нам к чорту на рогі.* Зарыцкі. *— У якім раёне быў? — К чорту на рогі заляцеў. Ажно за Патапчыкі забраўся, — сказаў Крывахіж.* Алешка. *Не хвалюйся! Яны зараз спяць такім сном, што іх саміх можна занесці к чорту на рогі...* Шашкоў.

**ЛЕЗЦІ ЧОРТУ Ў ЗУБЫ.** Гл. лезці.

**НІ БОГУ СВЕЧКА НІ ЧОРТУ КАЧАРГА.** Гл. свечка.

**НІ К Ч`ОРТУ.** *Праст. Незадав.* **1**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Вельмі дрэнны. **Сін**.: адны слёзы;

глядзець няма на што; з рук вон (у 2 знач.); кату пад хвост (у 2 знач.); кульгаць на абедзве нагі (у 3 знач.); курам на смех (у 1 знач.); на ліхога казана; не вытрымлівае ніякай крытыкі; не лезе ні ў якія вароты; нікуды не варты; ні к чорту не варты; ні самому паглядзець ні людзям паказаць; пусці павалюся (у 1 знач.); смеху варты. *Ні к чорту ваша работа! Бабы вы! Старыя дзяды самі сваім розумам даходзяць да думкі, што трэба ўзброенае змаганне супраць акупантаў... А вы спалохаліся паліцыі, арыштаў і стаіліся, як мышы пад мятлою...* Колас. *Тысячу дзевяцьсот рублікаў узялі, а тая іх механіка — ні к чорту!* Палтаран.

**2**. *Акал.* Вельмі дрэнна. **Сін**.: з рук вон (у 1 знач.); паўтара людскога. — *А ведаеш, Анэта, хлопчыка твайго трэба падвучыць... Па-польску, ды і наогул... Бо піша ён... няважна. — Не сказаў «ні к чорту», а толькі «няважна».* Гарэцкі.

**НІ К ЧОРТУ НЕ ВАРТЫ.** Гл. варты.

**ПАСЛАЦЬ К ЧОРТУ** *каго.* Гл. паслаць.

**ЧОРТУ РОГІ СКРУЦІЦЬ.** Гл. скруціць.

**Ч`ОРТУ Ў З`УБЫ** трапіць, сунуцца і пад. *Акал. Праст.* У небяспечнае месца, на рызыкоўную справу. *А пасля Агей і кажа: так і так, майляў, падкінем пару пудзікаў звыш накладной — прадасі? Прадам, кажу, не залежыцца: тавар ходкі... А мне з п'янкі і неўпрыцям, што гэта мой першы крок быў чорту ў зубы.* Быкаў. — *Чаго стаіш? — Яно, Наста, само сталася! І ў Боганчыка, і ў нас. Суньея лесам чорту ў зубы. Ноч. Ракеты не дзеці пускаюць.* Пташнікаў. *Сэр, не забывайце: мы рызыкуем — можам трапіць чорту ў зубы.* Гамолка. *Глядзі, хлопец, не ўляці чорту ў зубы, не напарыся на ражон, як казала тая цётка.* Дамашэвіч.

*ЧОРЦІКАЎ* ● **ДА Ч`ОРЦІКАЎ.** *Акал. Разм.* **1**. У найвышэйшай ступені (абрыдла што-н., цікава і інш.). *Акрамя ўмення прабіваць, як ты кажаш, што мне абрыдла да чорцікаў, я ўмею таксама нешта ствараць.* Шамякін. *Да чорцікаў напалохаў ты мяне сваім апошнім пісьмом.* Кавалёў. *Цяпер [Сяргей] мог бы сказаць, што нешчаслівы чалавек — гэта той, каму да чорцікаў абрыдла бадзяцца без пэўных планаў, без пэўных заняткаў, без пэўнага свайго чалавечага прызначэння.* Радкевіч.

**2**. Да непрытомнасці, да галюцынацый (піць, напівацца і пад.). **Сін**.: да парасячага піску; у дрызіну; у дым (у 1 знач.); у дыміну; як гразь; як зямля; як свіння. *[Калібераў:] А як наконт... ста грамаў? [Антаніна Цімафееўна:] Дома — колькі хочаш. А на людзях — ні ў рот. Дома сама буду паіць, да чорцікаў.* Макаёнак.

*ЧОРЦІКІ* ● **<ВЯС`ЁЛЫЯ> Ч`ОРЦІКІ СКАК`АЛІ (ЗАСКАК`АЛІ) У ВАЧ`АХ**

*чыіх, у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. кідае гуллівыя, вясёлыя позіркі. *— А ты думаў аб прычыне такога свайго маральнага падзення? Ад чаго гэта? — Ад чаго? — у тон яму паўтарыў Максім, чорцікі заскакалі ў яго вачах.* Шамякін. *Чорны артылерыст гаварыў сур'ёзна, але ў вачах усё яшчэ скакалі вясёлыя чорцікі.* Чыгрынаў. — *А зараз сюрпрыз! — у вачах у Шэлега заскакалі чорцікі. Ён паклаў перад Андрэем нейкія білецікі. — Што гэта? — Чытай!* Кацюшэнка.

*ЧОСУ* ● **ДАВАЦЬ ЧОСУ** *каму.* Гл. даваць.

*ЧУБЫ* ● **БРАЦЦА ЗА ЧУБЫ.** Гл. брацца.

*ЧУВАЦЬ* ● **ЧУВ`АЦЬ (ЧУТН`О) ЯК М`УХА ПРАЛЯТ`АЕ**. *Акал. Разм.* Надзвычайна ціха дзе-н. *І бацька моўкне і чакае, што скажа дзядзька або маці, і ціха стала ўраз у хаце: чутно як муха пралятае.* Колас. *Усе маўчалі гэтак, што было чуваць як муха пралятала.* Чарот. *Дысцыпліну Варановіч трымаць умее. На яго ўроку чуваць як муха праляціць.* Навуменка.

*ЧУЖОГА* ● **З ЧУЖОГА ПЛЯЧА.** Гл. пляча.

**СПЯВАЦЬ З ЧУЖОГА ГОЛАСУ.** Гл. спяваць.

*ЧУЖОЕ* ● **СОВАЦЬ НОСА Ў ЧУЖОЕ ПРОСА.** Гл. соваць.

*ЧУЖЫ* ● **ЛЕЗЦІ СА СВАІМ СТАТУТАМ У ЧУЖЫ МАНАСТЫР.** Гл. лезці.

*ЧУЖЫМ* ● **ЖЫЦЬ ЧУЖЫМ РОЗУМАМ.** Гл. жыць.

**НА ЧУЖЫМ ГАРБУ Ў РАЙ ЕХАЦЬ.** Гл. ехаць.

*ЧУЖЫМІ* ● **ЗАГРАБАЦЬ ЖАР ЧУЖЫМІ РУКАМІ.** Гл. заграбаць.

**ЧУЖЫМІ РУКАМІ.** Гл. рукамі.

*ЧУЖЫХ* ● **З ЧУЖЫХ СЛОЎ.** Гл. слоў.

**КВЕТКІ З ЧУЖЫХ ПАЛЁЎ.** Гл. кветкі.

*ЧУЖЫЯ* ● **ХАВАЦЦА ЗА ЧУЖЫЯ СПІНЫ.** Гл. хавацца.

*ЧУЙ* ● **Ч`УЙ Д`УХ**. *Акал. Разм.* Вельмі хутка, імкліва (уцякаць, імчацца, бегчы і пад.). **Сін.**: без аглядкі (у 1 знач.); без духу *бегчы*; без душы *бегчы*; без памяці (у 1 знач.); ва ўсе лапаткі (у 1 знач.); высалапіўшы язык (у 1 знач.); з усёй сілы (у 2 знач.); з усіх ног; колькі <было> духу; колькі <было> сілы (у 2 знач.); на злом галавы (у 2 знач.); на скрут галавы (у 2 знач.); на ўвесь дух; на ўвесь мах; на ўсе жылы; на ўсе застаўкі (у 2 знач.); на ўсе ногі; на ўсю моц (у 2 знач.); што ёсць духу (у 1 знач.); што ёсць сілы (у 2 знач.); як дуж; як жару ўхапіўшы; як з ланцуга сарваўшыся; як з перуна; як мага (у 1 знач.); як на крыллях; як на пажар; як падсмалены. **Ант.**: як чарапаха. *Узбегшы на ўзгорак, яны пабачылі дзіўнага на белым фоне звера, які чуй дух уцякаў у белы абшар.* Караткевіч. *Ігнат чуй дух паляцеў з катлом. Самых буйных, з кулак, камянёў нацягаў.* «Маладосць». [*Насовіч*, с. 105: чуй дух — 'вельмі хутка'.].

*ЧУМА* ● **КАР`ЫЧНЕВАЯ ЧУМ`А.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Фашызм. *Час яшчэ не сцёр ні з памяці людзей, ні з пакутнай зямлі слядоў, якія пакінулі на ёй нечуваныя трагедыі, страты і ахвяры, што прынесла чалавецтву карычневая чума.* Вітка. *Міралюбівыя народы не забылі жахаў вайны і не хочуць адраджэння «карычневай чумы».* «Звязда». — *Кожны бой з фашыстамі на вашай зямлі, — гаварылі нашы сябры, — гэта яшчэ адзін крок да вызвалення Чэхаславакіі ад карычневай чумы.* «Вожык».

*ЧУМЫ* ● **БАЛЬ У ЧАСЕ ЧУМЫ.** Гл. баль.

*ЧУТАЕ* ● **ДАЙ БОГ ЧУТАЕ БАЧЫЦЬ.** Гл. бог.

*ЧУТНО* ● **ЧУТНО ЯК МУХА ПРАЛЯТАЕ.** Гл. чуваць.

*ЧУХАЦЬ* ● **Ч`УХАЦЬ ПАТ`ЫЛІЦУ (-Ы).** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці сукупнасці асоб. Быць заклапочаным, засмучаным. *Няўстойлівасць фронту, усё большы і шырэйшы маштаб партызанскіх аперацый, іх стыхійны рост — усё гэта змушала войта і яго аднадумнікаў турботна чухаць патыліцы ды думаць, што нясе іх хаўрусаванне з панамі.* Колас. *Пасля даклада дырэктара аб тым, што «перад намі, таварышы, стаяць вялікія задачы», сядзелі, чухалі патыліцы, раіліся — як выйсці з гэтага цяжкага становішча.* Шамякін.

*ЧУЦЬ* ● **ЗЯМЛ`І НЕ Ч`УЦЬ ПАД САБ`ОЙ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Вельмі хутка бегчы. **Сін**.: не чуць ног пад сабой (у 1 знач.). *Чубаты ўсё бліжэй, бліжэй... Злы, зямлі пад сабою не чуе... [Васіль] не зводзіў вачэй з чубатага, падахвочваў сябе: «Няхай бяжыць, няхай! Пабачыць!»* Мележ.

**2**. Вельмі стаміцца ад працяглай хады, бегу, цяжкай працы і пад. **Сін**.: валіцца з ног *<ад чаго>*; выбівацца з сіл (у 1 знач.); высалапіць язык; заставацца без ног; збівацца з ног; ледзь ногі цягаць (у 1 знач.); ледзь стаяць на нагах (у 1 знач.); ледзь шоры цягаць; на нагах не трымацца; не чуць ног; не чуць ні рук ні ног. *Калі што табе вядома, ты адкрый мне тайну тую — я ўжо цэлы дзень як з дому, пад сабой зямлі не чую, я ўжо з голаду канаю, ледзьве ногі валаку.* Вітка.

**3**. Моцна радавацца, быць у захапленні, у добрым настроі. **Сін**.: не чуць ног пад сабой (у 2 знач.). *Слухаў хлопчык тое гранне, пад сабой не чуў зямлі, бо ў тых зыках чараванне спевы ўласныя плылі...* Колас. *Я, прызнацца, вельмі рад быў. Зямлі не чуў пад сабою.* Крапіва. *Праз які тыдзень хлопец фанабэрыста хадзіў па вёсцы, і пісталет быў пры баку. Ішоў па вёсцы і, здавалася, зямлі пад сабою не чуў.* Сабаленка.

**НЕ Ч`УЦЬ ДУШ`Ы** *ў кім. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі моцна, бязмежна любіць, глыбока паважаць каго-н. **Сін**.: аддаваць сэрца *каму*; сыходзіць з розуму *па кім* (у 2 знач.). *Божа*

*мой, няўжо некалі ён не чуў у ёй душы? Няўжо яе капрызы, эгаізм, знявага да другіх маглі яму здавацца мільмі дзівацтвамі?* Карпаў. — *Як хлопчыку без бацькі расці?.. — А ён пры бацьку і застанецца.. Старыя ў ім душы не чуюць, было б жорстка забіраць ад іх Севу.* Асіпенка.

**НЕ Ч`УЦЬ (НЕ АДЧУВ`АЦЬ) НІ Р`УК НІ Н`ОГ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Моцна стаміцца ад цяжкай працы. **Сін**.: валіцца з ног <*ад чаго*>; выбівацца з сіл (у 1 знач.); высалапіць язык; заставацца без ног; збівацца з ног; зямлі не чуць пад сабой (у 2 знач.); ледзь ногі цягаць (у 1 знач.); ледзь стаяць на нагах (у 1 знач.); ледзь шоры цягаць; на нагах не трымацца; не чуць ног. *Я старанна браў ахапкі сена з валкоў і насіў іх да месца стагавання. Праз паўгадзіны я ўжо не чуў ні рук ні ног.* Пянкрат. *Ужо ўсё тут абрыдла, захацелася на чыстае паветра, да сваіх людзей, да працы, каб не адчуваць ні рук ні ног.* Карпюк. *[Элеанора:] А пра сваё дзіця забыўся. За дзень ля яго набегаешся, ні рук ні ног не чуеш.* Гігевіч. *Развёў гамарню. Адна рыкае, другі вішчыць, трэці пішчыць... Нашарэнгаешся ля іх за дзень — ні рук ні ног не чуеш.* Кудравец.

**НЕ Ч`УЦЬ Н`ОГ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі стаміцца ад працяглай хады, бегу, цяжкай працы і пад. **Сін**.: валіцца з ног <*ад чаго*>; выбівацца з сіл (у 1 знач.); высалапіць язык; заставацца без ног; збівацца з ног; зямлі не чуць пад сабой (у 2 знач.); ледзь ногі цягаць (у 1 знач.); ледзь стаяць на нагах (у 1 знач.); ледзь шоры цягаць; на нагах не трымацца; не чуць ні рук ні ног. *Ты прала кужаль, ты капала гліну, а ў час жніва зусім не чула ног, ды гаварыла ласкава пра сына: «Хай падрасце, няхай паспіць сынок».* Грахоўскі. — *Я і сам ужо думаў сысці ды пасядзець крыху, — прызнаўся Багдан. — А то ног не чую, у галаве шуміць.* Кулакоўскі. *Міхаль зайшоў у хляўчук, дзе трымаў запасы камбікорму, павесіў касу, паставіў сумку... — Ног за дзень не чую...* А.Жук.

**НЕ Ч`УЦЬ Н`ОГ ПАД САБ`ОЮ.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. **1**. Вельмі хутка бегчы. **Сін**.: зямлі не чуць пад сабой (у 1 знач.). *[Людвіся] бяжыць ад млына на ўзгорак, дзе, ёй здалося, кліча хтосьці... Не чуе пад сабою ног.* Пушча. *Бег Гаварушка ў сваю Якімаўку, ног пад сабою не чуючы. Кідала яго ўбакі, як п'янага.* Лобан.

**2**. Моцна хваляваацца, радавацца, быць у захапленні, у добрым настроі. **Сін**.: зямлі не чуць пад сабой (у 3 знач.). *Я не чула ног пад сабою, угледзеўшы цябе на Неўскім...* Гартны. *На гару ўзыходжу сцежкай, пад сабою не чую ног, так прайшоў бы я з усмешкай, можа, тысячу дарог.* Куляшоў.

**НЕ Ч`УЦЬ Р`УК.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.

Вельмі стаміцца ад работы рукамі. *Пагрузчыцы-дзяўчаты даўно не чуюць рук.* «ЛіМ». *Кацярына рук не чуе — так стараецца яна.* Броўка.

**Ч`УЦЬ Д`УХ** *чый. Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Баяцца каго-н., адчуваючы строгасць. *Кацька пагрозліва пастукала кулачком у дзверы: — Чуй дух!* Шамякін. *Як меншы быў [унук], то чуў дух, а падрос і распусціўся, пабачыў, што я адна за ім не ўганюся.* І.Капыловіч.

**Ч`УЦЬ ЗВ`ОН ДЫ НЕ В`ЕДАЦЬ ДЗ`Е `ЁН.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Дакладна не ведаць таго, пра што гаворыш. *Тут яшчэ не бачылі выбуху сапраўднай авіябомбы. От ім і блюзніцца нейкая паветраная тарпеда. Чулі звон ды не ведаюць дзе ён.* Аўрамчык. — *Зімок чуў звон ды не ведае дзе ён, — падказаў Юзік.* «Полымя». «*Чуў Іван звон ды не ведае дзе ён... — усміхнуўся сам сабе Андрэй. Але праз хвіліну зноў усумніўся ў правільнасці свайго аптымізму, смеху.* Сачанка.

**ЧУЦЬ ЗОЛАК.** Гл. золак.

**Ч`УЦЬ НЕ Ч`УЦЬ.** *Акал. Разм.* Нарэшце такі, пасля значных намаганняў. *Вось чуць не чуць такі прабраўся і лезу проста на гару.* «Тарас на Парнасе». *Чуць не чуць і я гады за тры выбралася ў горад.* Юрчанка.

**ЧУЦЬ СВЕТ.** Гл. свет.

*ЧЫМ* ● **КРЫЦЬ НЯМА ЧЫМ** *каму.* Гл. крыць.

**НА ЧЫМ СВЕТ <СТАІЦЬ>.** Гл. свет.

*Заставацца, ісці, вяртацца* і пад. **НІ З Ч`ЫМ.** *Акал. Функц. не зам.* Без таго, на што разлічваў, спадзяваўся, чаго дамагаўся хто-н. **Сін.**: без штаноў; з голымі рукамі (у 1 знач.); з носам; з такам; ля разбітага карыта; на бабах; нясолана хлябаўшы; перад разбітым карытам; пры пікавых інтарэсах. *Наш інжынер не здаўмеўся гэтак зрабіць і застаўся ні з чым.* Крапіва. *Я заўсёды некуды спяшаўся і амаль ні з чым дамоў вяртаўся.* Панчанка. *Раечка як прыйшла, так і пайшла ні з чым.* Лобан. *Парламенцёры мусілі пасядаць у свае лімузіны і паехаць ні з чым.* Карпюк.

**НІ ПРЫ Ч`ЫМ.** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не мае ніякіх адносін да чаго-н., не з'яўляецца прычынай чаго-н. *[Каліберaў:] Калі выкрыецца твая махінацыя — не чакай ад мяне літасці! Не будзе! [Моцкін:] Выбачайце, я тут ні пры чым. Мяне самога ашукалі. Падсунулі квітанцыі.* Макаёнак. *Вядома, падстрэліў яго [Хадаронка] Сотнікаў, тут ужо ні Рыбак, ні тым болей Дзёмчыха ні пры чым.* Быкаў. **ПРЫ ЧЫМ.** З супрацьлеглым знач. — часцей у пытальных ск. *[Гарлахвацкі:] Там у вас вучыцца Тамара Чарнавус?.. Справа ў тым, што яе папа заблытаўся ў варожых справах... Як гэта*

— *яна пры чым? Мусіць жа пры чым, калі я гавару...* Крапіва.

**ПАКАЗАЦЬ НА ЧЫМ СВІННЯ ХВОСТ НОСІЦЬ** *каму.* Гл. паказаць.

**У ЧЫМ МАЦІ НАРАДЗІЛА.** Гл. маці.

**У ЧЫМ РЭЧ.** Гл. рэч.

**У ЧЫМ СПРАВА.** Гл. справа.

**У ЧЫМ <ТОЛЬКІ> ДУША ТРЫМАЕЦЦА** *ў каго, чыя.* Гл. душа.

**ЧЫМ БОГ ПАСЛАЎ.** Гл. бог.

**ЧЫМ ДЫХАЕ.** Гл. дыхае.

**ЧЫМ СВЕТ.** Гл. свет.

**ЧЫМ ХАТА БАГАТА.** Гл. хата.

**ЧЫМ ЧОРТ НЕ ЖАРТУЕ!** Гл. чорт.

**ЯК НІ Ў ЧЫМ НЕ БЫВАЛА.** Гл. бывала.

*ЧЫН* ● **Ч`ЫН ПА Ч`ЫНУ.** *Акал. Разм.* Так, як належыць, як трэба, як прынята. **Сін**.: на поўную катушку (у 1 знач.); па ўсіх правілах; чын чынаром; чын чынам; чэсць па чэсці; як дунай (у 2 знач.); як мае быць (у 1 знач.); як належыць; як след. *Між гушчарніку ў зямлянках партызаны, партызанкі: ёсць паважныя дзядзькі, ёсць салодкіх год жанкі, і дзяўчаты, і хлапчыны маюць зброю чын па чыну.* Лужанін. *У век жаночай роўнасці з усімі і крытыку мы дзелім чын па чыну.* Лось. *Пашкадаваў купіць машыну — дык езджу так. Чаго ж хацець? Цяпер, каб чуцца чын па чыну, сваю «каляску» трэба мець.* Гілевіч.

**Ч`ЫН Ч`ЫНАМ.** *Акал. Разм.* Так, як належыць, як трэба, як прынята. **Сін.:** на поўную катушку (у 1 знач.); па ўсіх правілах; чын па чыну; чын чынаром; чэсць па чэсці; як дунай (у 2 знач.); як мае быць (у 1 знач.); як належыць; як след. *Непарадку ў нас ніякага не будзе: зробім мы ўсё чын чынам, як след.* Галавач. *Быстроў за Сонцава адказаў: — Усё будзе чын чынам, таварыш гвардыі старшы лейтэнант.* Мележ. *Неўзабаве разведка данесла, што грозны маёр стаў на хутары каля вёскі Браносава, на кожны выпадак бліжэй каля дзотаў у мястэчку Турцы. Акапаўся чын чынам і артылерыю прывалок.* Брыль.

**Ч`ЫН ЧЫНАР`ОМ.** *Акал. Разм.* Так, як належыць, як трэба, як прынята. **Сін**.: на поўную катушку (у 1 знач.); па ўсіх правілах; чын па чыну; чын чынам; чэсць па чэсці; як дунай (у 2 знач.); як мае быць (у 1 знач.); як належыць; як след. *Я, значыць, лягу на ложку пры чыстай бялізне, усё чын чынаром, як у першакласнай бальніцы, а вакол мяне чалавек з дзесяць белахалатнікаў.* Лобан. *— Зразумела, таварыш камбат, — ажывіўся Грэчка. — Усё будзе чын чынаром.* Няхай. *З цяжкімі гаспадарчымі сумкамі пад’язджала на дырэктарскай машыне тэхнічка гастранома. Усё ішло чын чынаром.* Стадольнік.

*ЧЫНАМ* ● **ГАЛ`ОЎНЫМ Ч`ЫНАМ.** *Акал. Функц. не зам.* Пераважна, у большасці. **Сін**.: у асноўным (у 1 знач.). *[У кабінеце] стаяла некалькі шафаў з кнігамі, галоўным чынам па адвакацкай спецыяльнасці.* Колас. *Працэс маральнага перараджэння адбываецца, як правіла, паступова і галоўным чынам там, дзе пануюць уседаравальнасць, раўнадушнасць.*«Звязда».

**ГРЭШНЫМ ЧЫНАМ.** Гл. дзелам.

**П`ЕРШЫМ Ч`ЫНАМ.** *Акал. Разм. Часцей ужыв. пры дзеясл.-вык. зак. тр.* Спачатку, раней за што-н. **Сін**.: першым дзелам; у першую галаву; у першую чаргу. *Першым чынам Альяш у бліжэйшых вёсках закупіў пад будынкі сорак гектараў зямлі.* Карпюк. *Першым чынам — пазваць у госці, пачаставаць як след, падхваліць, а маладыя ж — яны падкія на пахвальбу...* Палтаран.

**ТАК`ІМ Ч`ЫНАМ.** У *знач. пабочн. сл. Функц. не зам.* Значыць, выходзіць. **Сін**.: знакам тым. *І, такім чынам, праз сям'ю, а потым і праз школу, наш розум прывучаецца пасіўна ўспрымаць такія з'явы, якія далёка не даследаваны і не растлумачаны.* Колас. *Сам ты бачыш, такім чынам, час мы тут не марнавалі; пакуль меў ты адпачынак, крыху штосьці збудавалі.* Крапіва.

**ЧЫН ЧЫНАМ.** Гл. чын.

*ЧЫНАРОМ* ● **ЧЫН ЧЫНАРОМ.** Гл. чын.

*ЧЫНУ* ● **ЧЫН ПА ЧЫНУ.** Гл. чын.

*ЧЫРВОНАГА* ● **ПУСКАЦЬ <ЧЫРВОНАГА> ПЕЎНЯ** *каму, куды, дзе.* Гл. пускаць.

*ЧЫРВОНАЙ* ● **ЧЫРВОНАЙ НІТКАЙ.** Гл. ніткай.

*ЧЫРВОНЫ* ● **ЧЫРВОНЫ ПЕВЕНЬ.** Гл. певень.

**ЧЫРВОНЫ ПАМЕШЧЫК.** Гл. памешчык.

*ЧЫРВОНЫМІ* ● **АБКЛАСЦІ ЧЫРВОНЫМІ СЦЯЖКАМІ** *каго.* Гл. абкласці.

*ЧЫСЛОМ* ● **З`АДНІМ ЧЫСЛ`ОМ (ДН`ЁМ).** *Акал. Разм.* Праз некаторы час пасля таго, як адбылося што-н. *Заднім чыслом каму не хочацца бачыць сябе героем?* Быкаў. *Сёння — заднім, як кажуць, чыслом — можна папракнуць паэта за недахоп праўдзівасці, за пэўную спрошчанасць у падыходзе да рэчаіснасці.* «ЛіМ». *Заяву Хашкоўскі напісаў па дарозе ў інстытут, на пошце. Заднім днём прасіў даць адпачынак, які канчаўся якраз сёння.* Асіпенка.

*ЧЫСТА* ● **ХАДЗІЦЬ КАЛЯ ПОСУДУ ЧЫСТА.** Гл. хадзіць.

*ЧЫСТАГА* ● **АД ЧЫСТАГА СЭРЦА.** Гл. сэрца.

**З ЧЫСТАГА ЛІСТА.** Гл. старонкі.

*ЧЫСТАЙ* ● **АД ЧЫСТАЙ ДУШЫ.** Гл. сэрца.

**З ЧЫСТАЙ ДУШОЙ.** Гл. душой.

**З ЧЫСТАЙ СТАРОНКІ.** Гл. старонкі.

**ЧЫСТАЙ ВАДЫ.** Гл. вады.

*ЧЫСТУЮ* ● **ВЫВОДЗІЦЬ НА ЧЫСТУЮ ВАДУ** *каго, што.* Гл. выводзіць.

**ЗА ЧЫСТУЮ МАНЕТУ.** Гл. манету.

*ЧЫСТЫМ* ● **З ЧЫСТЫМ СУМЛЕННЕМ.** Гл. сумленнем.

*ЧЫТАЦЬ* ● **ЧЫТ`АЦЬ ГАЗ`ЕТЫ.** *Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн., выраж. словамі *конь, карова* і пад. Галадаць. *[Ладымер:] Мы старыя гаспадарскія хлявы паразбіралі, а новага не паробім, от на зіму і паставім коні на скавышы газеты чытаць.* Чорны. *Коні ўвесь дзень.. газеты чыталі* Гурскі. *Спіцё, работнічкі, гарэлку жлукціце, а кароўкі ў стойле газеты чытаюць...* Асіпенка. *Стаяць [коні], чытаюць газеты, адтапырыўшы сухія губы.* Клебановіч.

**ЧЫТ`АЦЬ ПАМ`ІЖ РАДК`ОЎ** <*што*>. *Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Здагадвацца пра скрыты сэнс чаго-н. нявыказанага. *Корзун ніколі не меў асаблівага поспеху ў дзяўчат. Можа, таму, што, як некалі зло ўпікнула Святлана, выбіраў надта прыгожых. Паміж радкоў гэты папрок, падобна, трэба было чытаць так: не па сабе.* Шыцік. **ПРАЧЫТАЦЬ ПАМІЖ РАДКОЎ**<*што*>. *Зак. Сашы вельмі хацелася атрымаць пісьмо, якое было б напісана хаця б у першы дзень вайны, каб даведацца — а яна прачытала б гэта паміж радкоў, — як там пачалося ў іх, што ён думае і што ён робіць, што з ім.* Шамякін.

**ЧЫТ`АЦЬ У С`ЭРЦЫ (У ДУШ`Ы)** *чыім, у каго. Незак. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Здагадвацца пра чые-н. думкі, жаданні, настрой і пад. *[Станіслаў:] Пані Адэльця, ты магла навучыцца, з маленства ідучы бок а бок са мною, чытаць у маім сэрцы.* Дунін-Марцінкевіч.

*ЧЫЯ* ● **ЧЫ`Я (ЧЫ`Ё) БЯР`Э (УЗЯЛ`А, УЗЯЛ`О, В`ОЗЬМЕ)**. *У знач. асаб. ск. Разм.* Хто перамагае. Выказванне прызнання чыёй-н. перамогі. *Дагэтуль сядзеў і чакаў, чыя возьме, а цяпер лічыць, што ўжо ўсё вырашана і таму можна не саромецца.* Крапіва. *Кожны чацвёрты — за рэформы, за дэмакратыю. Кожны другі чакае, чыя возьме.* «ЛіМ». *Яны нашых б'юць, а мы іхніх. Паглядзім, чыё возьме.* Гурскі.

*ЧЫХ* ● **НІ Ў СОН НІ Ў ЧЫХ.** Гл. сон.

*ЧЭМЕР* ● **Ч`ЭМЕР НА ЯГ`О (Я`Е, ТВА`Ю, `ІХ) ГАЛАВ`У.** *Выкл. Праст.* Выказванне прыкрасці, абурэння і пад. кім-н. **Сін**.: каб на яго ліха; кадук на яго; кадук яго вазьмі; ліха матары <*чыёй*>; ліха на яго; ліха яго галаве; трасца яго галаве; трасца яго матары; трасца яму ў бок; халера на яго; хвароба на яго; хрэн у вочы *каму. Іду ад Касабуцкага, ад буржуя гэтага, чэмер на яго галаву!* Каваль. — *Чаму, чаму, чэмер на яго галаву, яшчэ пытаецца! — узарвалася Адэрка.* Юрчанка.

*ЧЭРЦІ* ● **<З> АДНАГ`О БАЛ`ОТА Ч`ЭРЦІ.** *Адз. не ўжыв. Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн., выраж. двума наз. ці займ., са знач. асобы. Абсалютна аднолькавыя ў якіх-н. адносінах, без розніцы. **Сін**.: абое рабое; аднаго крою; аднаго поля ягада; адным лыкам шытыя; адным мірам мазаны; два боты пара; з аднаго цеста <спечаны>; зроблены на адзін капыл; на адзін капыл (у 1 знач.); на адзін лад; на адзін манер (у 1 знач.). **Ант**.: з іншага цеста <спечаны>; не з такога цеста зроблены. —*Ты таксама такі, як ён, — усміхнулася раз'ятраная Анiся на бацьку. — З аднаго балота чэрці.* Сабаленка. *Вядома, і эсэсаўцы, і паліцаі — аднаго балота чэрці, але добра, калі яны пачынаюць выскаляцца адзін з аднаго,* Лынькоў. *— Я, людзі, лічыў і лічу: улады — гады! А кожны гад мае свой яд... — падаў голас маўклівы Юзік Чорны. — Аднаго балота чэрці.* Далідовіч.

**Ч`ЭРЦІ ВЯС`ЕЛЛЕ СПРАЎЛ`ЯЮЦЬ (ГУЛ`ЯЮЦЬ; СПРАЎЛ`ЯЛІ, ГУЛ`ЯЛІ).** *У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Завіруха разгулялася. **Сін**.: чорт з ведзьмай жэніцца *дзе*; чэрці жэняцца. — *Ну, і надворе! — вымавіў чалавек з перавязанай рукой, папраўляючы каўнер шыняля. — Няйначай чэрці вяселле спраўляюць...* Лынькоў. *Надвор'е якраз паспрыяла: чэрці вяселле гулялі. Жоўтая пляма сонца асвятляла іскрыстую каламуць.* Лобан.

**ЧЭРЦІ ГОНЯЦЬ** *каго.* Гл. чорт.

**Ч`ЭРЦІ ДР`ЭНЧАЦЬ** *каго. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Хто-н. шуміць, лаецца і пад. — *Чаго іх там чэрці дрэнчаць? — ціха сказаў ён [дзед Купрыян] хутчэй да самога сябе, чым да Васіля і Аўгіні.* Колас. *Чэрці цябе дрэнчаць увесь час — пляцеш, Саня, чамялу ўсякую...* Масарэнка.

**Ч`ЭРЦІ Д`УШАЦЬ** *каго дзе. У безас. ужыв. Праст. Неадабр.* Хто-н. бадзяецца, прападае дзе-н. **Сін**.: каланіца носіць *каго дзе, калі*; ліха носіць *каго дзе*; нялёгкая носіць *каго дзе*; нячыстая сіла носіць *каго дзе*; нячысцік носіць *каго дзе*; халера носіць *каго дзе*; хвароба носіць *каго дзе*; чорт носіць *каго дзе. — Андрэй, гэта ты?.. — Я, — азваўся Андрэй. — Дзе цябе чэрці душаць? — спытала сярдзіта жонка. — Вячэра даўно стыне!* Колас. *— Дык няма ж яго... — Як то няма? А дзе ж яго чэрці душаць? — Ён жа на Устронь паехаў...* Лобан.

**Ч`ЭРЦІ Ж`ЭНЯЦЦА.** *У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Завіруха разгулялася. **Сін**.: чорт з ведзьмай жэніцца *дзе*; чэрці вяселле спраўляюць. *[Гайцакоўскі:] Учора вечарам ехаў са станцыі — месяц свяціў, і так ціха было — са свечкай поле пяройдзеш. А цяпер — чэрці жэняцца!* Шашкоў. *—Ну і надворе, браточкі! Відаць, чэрці жэняцца, — паспрабаваў жартаваць капітан Гайда.* Жалязоўскі.

**ЧЭРЦІ НОСЯЦЬ** *каго дзе.* Гл. чорт.

**ЯК ЧЭРЦІ ГАРОХ МАЛАЦІЛІ** *на чым.* Гл. чорт.

**ЯК ЧЭРЦІ ЎССЕЛІ** *на каго.* Гл. чорт.

**<ЯШЧ`Э> Ч`ЭРЦІ НА КУЛ`АЧКІ НЕ ВЫХ`ОДЗІЛІ (НЕ БР`АЛІСЯ, НЕ Б`ІЛІСЯ).** *У знач. акал. ці часткі складанага ск. Разм.* Вельмі рана, перад світаннем. **Сін**.: ні свет ні зара; чуць золак; чуць свет; чым свет. *Было яшчэ рана, — чэрці на кулачкі не выходзілі, — як прачнуўся Паўлюк і аслабаніўся ад «тоўстага кругляка».* Колас. *[Пятрок:] Яшчэ чэрці на кулачкі не браліся, а вас сюды прыгналі гэты роў капаць.* Гарбацэвіч. *Зазыба пакутліва наморшчыў твар: — Ладна, перастаньце, мужыкі, бо яшчэ, можа, і чэрці с[ё]ння на кулачкі не біліся, а вы...* Чыгрынаў.

*ЧЭСНАЕ* ● **ЧЭСНАЕ СЛОВА.** Гл. слова.

*ЧЭСНЫМ* ● **НА ЧЭСНЫМ СЛОВЕ.** Гл. слове.

*ЧЭСЦІ* ● **АДДАННЕ ЧЭСЦІ.** Гл. адданне.

**ЧЭСЦЬ ПА ЧЭСЦІ.** Гл. чэсць.

*ЧЭСЦЬ* ● **АДДАВАЦЬ ЧЭСЦЬ** *каму.* Гл. аддаваць.

<u>*Пара*</u> **<І> ЧЭСЦЬ ЗНАЦЬ** *каму.* Гл. знаць.

**Ч`ЭСЦЬ ПА Ч`ЭСЦІ.** *Акал. Разм.* Так, як належыць, як трэба, як прынята. **Сін**.: на поўную катушку (у 1 знач.); па ўсіх правілах; чын па чыну; чын чынам; чын чынаром; як дунай (у 2 знач.); як мае быць (у 1 знач.); як належыць; як след. *Праз дзён пяць прыязджае сапраўдны муж. Відны такі мужчына, высокі, сіваваты ўжо, у акулярах, у капелюшы. Чэсць па чэсці.* Асіпенка. У *Дзягеля ўсё чэсць па чэсці: і фуражка, і боты, і папруга, і белы падкаўнерык чорнае шарсцяное гімнасцёркі.* А.Жук. *[Кузьміч:] Скажам, з’яўляецца да мяне новы жылец, у натуры... Ордэр — чын па чыну — на сем, восем асоб. Пры ордэры пашпарты — чэсць па чэсці...* Петрашкевіч.

## Ш

*ШАВЕЦ* ● **І ШАВ`ЕЦ (ШВ`ЕЦ) І ЖН`ЕЦ І НА ДУДЗ`Е (НА Д`УДЦЫ, У ДУД`У) ІГР`ЭЦ.** *Мн. не ўжыв. Вык. Разм. Жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Майстар ва ўсякай справе, здатны да ўсяго. *Тарас быў і сталяр, і цясляр, і шавец і жнец і ў дуду ігрэц.* Караткевіч. *Іван быў майстра на ўсе рукі — і швец і жнец і на дудцы ігрэц, але, бегаючы па заработках, нават сенечак да хаты не прыбудаваў.* Навуменка. У *калектыве Пятро — і швец і жнец і на дудзе ігрэц. Сапраўды. Паломка здарыцца — сам за варку бярэцца і варыць не горш за прафесіянала...* «Полымя». *Ну, швец, жнец і ў дуду ігрэц, рыхтуйцеся да бою... Бачыце, народ валам валіць у клуб.* Гурскі. *Сапраўды, пасля заканчэння культасветвучылішча малады чалавек сутыкаецца ў клубе з масай праблем. Ён, як кажуць, і швец і жнец і на дудзе ігрэц.*

«Чырв. змена».

*ШАЙКА* ● **<АДН`А> Ш`АЙКА-Л`ЕЙКА.** *Мн. не ўжыв. Часцей вык. Праст. Неадабр.* Група людзей, аб'яднаных агульнымі інтарэсамі ці паводзінамі, учынкамі. *– Ты скажы, дзе хаваецца твой Рыгор?.. – Я за Рыгорам не хаджу; дзе ён – я не ведаю. – Брэшаш! Вы адна шайка-лейка, – і бандыт перацягнуў Тацяну тоўстым гарапнікам.* Нёманскі. *А што ты мне пакажаш?! Што ты ведаеш?! Сабралася тут адна шайка-лейка. Законы свае ўстанаўляе.* Кобец. *Аўлас, Карпусь, Ярэма – гэта ж шайка-лейка. З іх увесь свет гарыць.* Баранавых. *– Гэта ж падумаць: шасцярым насы расквасіў. – Дык каму – шайцы-лейцы бандзюкоў. Дзяўчыну абараняў.* Калодзежны.

*ШАЛЁНАЙ* ● **МАЛАКО АД ШАЛЁНАЙ КАРОВЫ.** Гл. малако.

*ШАЛЁНАЯ* ● **ШАЛЁНАЯ МУХА ЎКУСІЛА <ЗА ВУХА>** *каго.* Гл. муха.

*ШАЛЁНЫ* ● **ШАЛЁНЫ ПОП ХРЫСЦІЎ** *каго.* Гл. поп.

*ШАНАВАННЕ* ● **МА`Ё ШАНАВ`АННЕ** *<каму>. Выкл. Функц. не зам.* Прывітальны зварот пры сустрэчы з кім-н. **Сін**.: дзень добры!; наша вам. — *А-а, мясцовая інтэлігенцыя! — радасна, бы не чакаў, здзіўляецца Пашка, — Маё шанаванне!..* Паўлаў. *Кабінет пракурора раёна. За сталом Размысловіч. Уваходзіць Манаева. [Размысловіч:] А-а-а, прэса?! Маё шанаванне!..* Петрашкевіч. *[Сурмач:] Добры вечар... [Андрэй:] Грамадзяніну Сурмачу маё шанаванне...* Маўзон. — *Маё шанаванне студэнту, — з ласкавай усмешкай сказаў Сцяпан Іванавіч Заяц, сусед і стары бацькаў прыяцель, заўважыўшы, што Валодзя расплюшчыў вочы.* Новікаў.

*ШАНУЮЧЫ* ● **ШАН`УЮЧЫ В`АС.** *У знач. пабочн. сл. Разм.* Прашу прабачэння. Ужыв. перад словам ці выразам, за выкарыстанне якога гаворачая асоба просіць прабачэння. *[Пытляваны:] Атрымалі мы васьмёра коней з воінскай часці, зрабілі некалькі бочак і, шануючы вас, як тыя залатары, цэлую зіму і вясну, дзень у дзень, цягалі з горада тое, што яму непатрэбна.* Крапіва. *[Трахімайна:] Баб цяпер хоць гаць гаці. Мо дзесяць на аднаго прыходзіцца. За кожнымі, шануючы вас, порткамі бегаюць. Аж брыдка.* Грахоўскі.

*ШАПАК* ● **ЛАМАННЕ ШАПАК.** Гл. ламанне.

**НА РАЗБОР ШАПАК.** Гл. разбор.

*ШАПАЧНАМУ* ● **К ШАПАЧНАМУ РАЗБОРУ.** Гл. разбору.

*ШАПАЧНЫ* ● **НА ШАПАЧНЫ РАЗБОР.** Гл. разбор.

*ШАПКА* ● **НЕ ПА С`ЕНЬКУ (Х`ОМКУ, `ЮРКУ) Ш`АПКА** *<для каго>. У безас. ужыв. Разм.* Зусім немагчыма, вельмі цяжка (рабіць што-н.). **Сін**.: не пад сілу *каму* (у 1 знач.); не па каню воз; не ў дугу *<каму>*. *Проста твае ўстаноўкі дарагія. Не па Сеньку шапка для многіх*

*калгасаў.* «Полымя». *Андрэй і сам пераканаўся: ён памыліўся, выбраў сабе не тую прафесію. — Не па Хомку шапка, — прызнаўся неяк Андрэй.* Сачанка. *Што мне рабіць? Хіба торбу надзець і пайсці жабраваць? Не па Юрку шапка, казаў той...* Бядуля. *[Ядзя:] Жыць, як дагэтуль, я ніводнага дня не жадаю. [Жыгліцкая:] Значыць, не па Юрку шапка, сынок. І гані ты яе вон, каб дыхнуць вальней можна было.* Козел.

**Ш`АПКА В`АЛІЦЦА.** *Азн. Разм. Адабр.* Вельмі высокі, выгоністы. Пра дрэва, лес. **Сін**.: гамоніць з небам. *Комель — слуп-скала, дыша сілаю. А ўгару зірнеш — шапка валіцца.* Колас. *Пасля разнадрэўя.. раптам чысты бор: адна ў адну, высокія — шапка валіцца — магутныя, з чыстымі ствaламі, меднымі перад кронай, сосны.* Шамякін.

**Ш`АПКА МАНАМ`АХА**. *Мн. не ўжыв. Часцей дап. Функц. не зам.* **1.** Галаўны ўбор як сімвал царскай улады ў Расіі. *Хто б мог падумаць, акрамя хіба самога авантурыста Глінскага, што ён, хоць і не ў шапцы Манамаха, а ўсё ж пакіруе Масковіяй пры малалетнім цару.* Петрашкевіч.

**2.** Адзінае, поўнаўладнае кіраўніцтва дзяржавай. *Афанасій Філіповіч сем гадоў вучыў «царэвіча маскоўскага» — яшчэ аднаго самазванца на шапку манамаха.* Чаропка. *Глінскі рупіўся пра такую блізкую зараз шапку манамаха. Логіка барацьбы за прастол і схільнасці Глінскага — рэчы ўпартыя.* Петрашкевіч. *Паход за шапкай манамаха не адмяняецца, а толькі адкладваецца.* «Полымя»

*ШАПКАЙ* ● **АРШЫН З ШАПКАЙ.** Гл. аршын.

*ШАПКАМІ* ● **ЗАКІДАННЕ ШАПКАМІ** *каго.* Гл. закіданне.

**ЗАКІДАЦЬ ШАПКАМІ** *каго.* Гл. закідаць.

*ШАПКУ* ● **ДЗЯКУЙ У ШАПКУ** *каму.* Гл. дзякуй.

**ЗДЫМАЦЬ ШАПКУ** *перад кім.* Гл. здымаць.

**ЛАМАЦЬ ШАПКУ** *перад кім.* Гл. ламаць.

**НАДЗЕЦЬ ШАПКУ МАНАМАХА.** Гл. надзець.

**ПАЛАМАЦЬ ШАПКУ** *перад кім.* Гл. паламаць.

**СПАЦЬ У ШАПКУ.** Гл. спаць.

**Ш`АПКУ Ў АХ`АПКУ.** *У ролі дзеясл. вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, перад аднародным (часцей — апушчаным) вык. пры перадачы хуткай змены падзей. Схапіць з сабой свае манаткі. **Сін**.: лахі пад пахі; шаркі на баркі; шашкі ў мяшкі. *Мама плакала, і Аксіння Цітаўна плакала. А я не стаў чакаць, пакуль у іх высахнуць слёзы: шапку ў ахапку ды за дзверы.* Аношкін. *Іван шапку ў ахапку і за дзверы — па Зініным следзе.* Клебановіч. *А тут я як гляну ў акно —*

*ах мае долечкі! — гэта ж нашы едуць. Дык я шапку ў ахапку — ды з хаты.* Лецка. *Бацька шапку ў ахапку, сякеру ў рукі і агародамі к свірну.* «Полымя».

*ШАПЦЫ* ● **ДАВАЦЬ ПА ШАПЦЫ** *каму.* Гл. даваць.

*ШАР* ● **ПУСКАЦЬ ПРОБНЫ ШАР.** Гл. пускаць.

*ШАРАШКІНА* ● **ШАРАШКІНА КАНТОРА.** Гл. кантора.

*ШАРАЯ* ● **ШАРАЯ ГАДЗІНА.** Гл. гадзіна.

*ШАРКІ* ● **Ш`АРКІ НА Б`АРКІ.** *У ролі дзеясл. вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, перад аднародным (часцей — апушчаным) вык. пры перадачы хуткай змены падзей. Схапіць з сабой свае манаткі. **Сін**.: лахі пад пахі; шапку ў ахапку; шашкі ў мяшкі. *Я тут шаркі на баркі і драла.* Янкоўскі. *[Ульяна:] А як выхадны, дык ён [масавік-забаўнік] шаркі на баркі і ў горад патлы завіваць. Цяпер ужо і дабрынёўскія падшывальцы, на яго гледзячы, і не стрыгуцца, і не голяцца.* Петрашкевіч.

*ШАРМАНКУ* ● **ЗАВЕСЦІ СВАЮ ШАРМАНКУ.** Гл. завесці.

**КРУЦІЦЬ ШАРМАНКУ.** Гл. круціць.

*ШАРНІРАХ* ● **ЯЗЫК НА ШАРНІРАХ** *у каго.* Гл. язык.

*ШАРОМ* ● **ХОЦЬ ШАРОМ ПАКАЦІ** *дзе.* Гл. пакаці.

*ШАРЫКІ* ● **Ш`АРЫКІ ЗА Р`ОЛІКІ ЗАХ`ОДЗЯЦЬ (ЗАСК`ОКВАЮЦЬ, ЗАЯЗДЖ`АЮЦЬ)** *у каго*; **Ш`АРЫКІ ЗА Р`ОЛІКІ ЗАЙШЛ`І (ЗАСК`ОЧЫЛІ, ЗА`ЕХАЛІ)** *у каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. дзейнічае неразумна, безразважна, робіць глупства. **Сін**.: дах паехаў *у каго*; дурны поп хрысціў *каго*; зрух па фазе *ў каго*; клёпкі не хапае <у галаве> *у каго*; мазгі адсохлі *ў каго* (у 2 знач.); мазгі набакір *у каго*; мазгі не на месцы *ў каго*; мякіна ў галаве *ў каго*; не ўсе дома *ў каго*; салома ў галаве *ў каго, чыёй.* **Ант**.: галава варыць *у каго*; <ёсць> <свая> галава на плячах *у каго*; кацялок варыць *у каго*; мазгі вараць *у каго*; не галава, а дом саветаў *у каго*; светлая галава *ў каго. У яго.. [заўсёды] шарыкі за ролікі заходзяць.* Юрчанка. *[Іван:] Радыё, тэлевізар, газеты. Не паспявае галава пераварваць. Вось у яго і заскочылі шарыкі за ролікі...* Матукоўскі. *Шлык цярпліва расказваў пра розныя выпадкі са сваёй практыкі, калі засыпаўся на самых простых задачах, бо заходзілі, як ён казаў, шарыкі за ролікі, з галавы выскоквала нейкая дробязь і блытала ўсе карты.* Радкевіч. *Пакуль зусім шарыкі за ролікі не заехалі, давай ты, хлопча, да мяне на ўчастак — будзе табе і лёгкі занятак, і свежае паветра.* Кусянкоў.

*ШАРЭНГАХ* ● **У ПЕРШЫХ ШАРЭНГАХ** *каго, чаго.* Гл. радах.

*ШАСТОМ* ● **ШАСТОМ ГАЛАВЫ НЕ ДАСТАЦЬ** *у каго, каму.* Гл. дастаць.

*ШАЎКАХ* ● **ЯК У ШАЎКАХ.** Гл. шаўку.

*ШАЎКУ* ● *У дайгу* **ЯК У ШАЎК`У**; *у дайгах* **ЯК У ШАЎК`АХ.** *Акал. Разм.*

Звыш усякай меры. **Сін**.: па вушы *ў дайгу. [Георгій:] Давай не будзем гаварыць аб гэтым, я і так перад табой у дайгу як у шайку.* Клімковіч. *Далікатны намёк на мой доўг закрануў мяне за жывое. Нядобра, калі чалавек у дайгу як у шайку.* Якімовіч. *Гаспадарка эканамічна адсталая, крэдытаў розных — і доўгатэрміновых, і кароткатэрміновых... Словам, у дайгу як у шайку.* «Звязда». *Цьфу, што ён [Васіль] мае ад той сваёй чэсці? Вечна рублі лічыць, у дайгах як у шайках...* І.Капыловіч. *Калі Арціменя прыйшоў у гаспадарку, яна была ў дайгах як у шайках.* «Вожык».

*ШАФЭ* ● **ПАД ШАФ`Э.** *Акал. і вык. Разм. Неадабр.* У стане ап'янення. **Сін**.: на брывах; на вушах; на падпітку; на ўзводзе; пад газам; пад градусам; пад мухай; пад хмяльком; пад чаркай. *[Сымон:] Звычайная рэч, калі начальства ходзіць «пад шафэ»; як кажуць па-далікатнаму, ну, а наш брат — проста «пад мухай».* Шынклер. *Канечне, Масальскі быў пад шафэ. Ён у новенькім трыковым гарнітуры, лакавых новых туфлях.* Хомчанка. *Шмулька заявіцца амаль цвярозы, толькі ледзь-ледзь, як кажуць, пад шафэ...* Гіль. *Некалькі келіхаў шампанскага за сяброўскім сталом... Ну так, я спазніўся, я крыху пад шафэ...* Арлоў. *З блакітных вагонаў выбіралася мужчынская дэлегацыя пад шафэ.* Астравец.

*ШАХЕР* ● **Ш`АХЕР-М`АХЕР.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Махлярская здзелка, лоўкая ашуканская аперацыя. *Думаеце, камендант толькі з вашым кулаком гэтым шахер-махер робіць? Факт, што не...* Машара. *Хлопцы кажуць: каб прытушыць гэтую пятрушку, трэба шахер-махер рублёў на трыста.* Карпаў. *Леў Маркавіч шпацыраваў з кута ў кут па кабінеце. Няўжо пранюхалі-такі пра шахер-махер з Ярыжкіным?* Аношкін. *Прыяцелі пакінулі балкон і накіраваліся ў кабінет, дзе вырашаліся ўсякія шахеры-махеры паміж імі.* Нёманскі. *[Леапольд Гушка:] Э, я ж цябе ведаю. Ці даўно ты ў гарадку на рынку ўсякімі шахерамі-махерамі займаўся!* Чорны.

*ШАШКІ* ● **ШАШК`І Ў МЯШК`І.** *Абл. У ролі дзеясл. вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, перад аднародным (часцей — апушчаным) вык. пры перадачы хуткай змены падзей. Схапіць з сабой свае манаткі. **Сін**.: лахі пад пахі; шапку ў ахапку; шаркі на баркі. *Доўга не грэў зубы, шашкі ў мяшкі ды дамоў.* Юрчанка.

**ШАШК`І Ў МЯШК`І** <u>браць (узяць), збіраць, складваць</u> і пад. *Абл. Дап. Разм.* Свае пажыткі з сабой (браць, збіраць і пад. перад адыходам, ад'ездам, уцёкамі). **Сін**.: лахі пад пахі *браць. Такая была кватэра! На двух паверхах! Такія дываны! На трох сценках і падлозе! Такі быў горад — між лесам і дзвюма рэчкамі! Такая пасада —*

*упершыню ў жыцці! І вось зноў збірай шашкі ў мяшкі і — па асінавыя шышкі.* «Маладосць». *Пара вам складваць шашкі ў мяшкі.* Юрчанка.

*ШВАХ* ● **ПА ШВ`АХ** выцягнуць, апусціць рукі. *Акал. Функц. не зам.* Уздоўж тулава і прыціснуўшы да яго. *Макар уваткнуў вілы ў кучу травы, не спяшаючыся падышоў, спыніўся кроках у двух, выцягнуўшы рукі па швах.* Асіпенка. *Палкоўнік у адстаўцы падхапіўся з месца, выструніўся, выцягнуў рукі па швах і, каб было што на галаве, казырнуў бы.* Шахавец. *Хутка лейтэнант выпрастаўся, апусціў па швах рукі.., падаў каманду «Смірна!» і страявым крокам пайшоў да Сакольнага.* Кулакоўскі.

**ТРАШЧАЦЬ ПА <УСІХ> ШВАХ.** Гл трашчаць.

*ШВЕД* ● Прапасці, праваліцца і пад. **ЯК ШВ`ЕД ПАД ПАЛТ`АВАЙ.** *Акал. Разм. Часцей жарт.* Зусім, канчаткова. *[Мікола:] Ну, Мікола, лічы, прапаў ты цяпер як швед пад Палтавай...* Махнач. *Не-е, не той козыр аб'яўляе гэты Сымановіч, не на тых стаўку бярэ. І позна ці рана, а прагарыць як швед пад Палтавай.* Блакіт. *[Сашка] універсітэт асіліў, а мая, квактуха, на завочнае рыпнулася і пшык... Правалілася як швед пад Палтавай. На першым экзамене.* Марчук.

*ШВЕДАМ* ● **ЗА ДЗЕДАМ ШВЕДАМ.** Гл. дзедам.

*ШВЕЦ* ● **І ШВЕЦ І ЖНЕЦ І НА ДУДЗЕ ІГРЭЦ.** Гл. шавец.

*ШВОМ* ● **АДН`ЫМ ШВ`ОМ.** *Абл. Акал. Разм.* Бесперапынна, не сціхаючы (цягнуцца, ісці, рабіць і пад.). *Купляў, перапрадаваў, мяняў іх — і ўсё ішло адным швом і шанцавала — удаваліся Корсаку коні.* Адамчык.

**ЗА АДН`ЫМ ШВ`ОМ.** *Абл. Акал. Разм.* Заадно, адначасова з чым-н. другім (рабіць, зрабіць што-н.). **Сін**.: за адным заходам; за адным махам; за адным разам. *Бронік Літавар.. гаварыў, што збіраецца на кірмаш: павязе прадаваць цяля і за адным, як кажуць, швом мог бы падвезці каго-небудзь у Дварчаны.* Адамчык.

*ШКАРЛУПІНЕ* ● **ЗАМЫКАННЕ ВА ЎЛАСНАЙ (У СВАЁЙ) ШКАРЛУПІНЕ.** Гл. замыканне.

**ЗАМЫКАЦЦА Ў СВАЁЙ ШКАРЛУПІНЕ.** Гл. замыкацца.

*ШКАРЛУПІНУ* ● **ЗАМЫКАЦЦА Ў СВАЮ ШКАРЛУПІНУ.** Гл. замыкацца.

*ШКІРКУ* ● **БРАЦЬ ЗА ШКІРКУ** *каго.* Гл. браць.

*ШКЛЯНКА* ● **ЯК ШКЛ`ЯНКА.** *Азн. і вык. Разм. Адабр.* Новы, нядаўна пабудаваны і добры. Пра хату, дом і пад. **Сін**.: як звон. *Сядзіба шырокая і доўгая, уся пад садам. Свіран прасторны, хлявы — як шклянка, з жоўтай сасны.* Чарнышэвіч. *Затое хату [Язэп] паставіў — на два канцы, як шклянку.* Адамчык. *Вось у Цеплюкоў хата дык хата — як шклянка, звонкая ды вялікая!* Іпатава.

*ШКЛЯНОГА* ● **БАЧЫЦЬ ШКЛЯНОГА БОГА.** Гл. бачыць.

*ШКЛЯНЦЫ* ● **БУРА Ў ШКЛЯНЦЫ ВАДЫ.** Гл. бура.
*ШКЛЯНЫ* ● **ШКЛЯНЫ БОГ.** Гл. бог.
*ШКУР* ● **СПУСЦІЦЬ СЕМ ШКУР** *з каго.* Гл. спусціць.
*ШКУРА* ● **<АДНА> ШКУРА ДЫ КОСЦІ.** Гл. скура.
**ШКУРА ГАВОРЫЦЬ** *у каго, на кім.* Гл. скура.
**ШКУРА ГАРЫЦЬ** *на кім.* Гл. скура.
*ШКУРУ* ● **ДЗЯЛІЦЬ ШКУРУ НЕЗАБІТАГА МЯДЗВЕДЗЯ.** Гл. дзяліць.
**ДРАЦЬ ШКУРУ** *з каго.* Гл. драць.
**ЗАЛІВАЦЬ САЛА ЗА ШКУРУ** *каму.* Гл. заліваць.
**ЛУПІЦЬ ШКУРУ** *з каго.* Гл. лупіць.
**СПУСЦІЦЬ ШКУРУ** *з каго.* Гл. спусціць.
*ШКУРЫ* ● **ВОЎК У АВЕЧАЙ ШКУРЫ.** Гл. воўк.
**НА ВАЛОВАЙ ШКУРЫ НЕ СПІШАШ** *чаго.* Гл. спішаш.
**НА СВАЁЙ ШКУРЫ.** Гл. скуры.
**У ШКУРЫ** *чыёй.* Гл. скуры.
*ШЛЯХ* ● **МЛ`ЕЧНЫ ШЛ`ЯХ.** *Мн. не ўжыв. Дзейн. і дап. Функц. не зам.* Мноства зорак, падобнае ў ясныя ночы на светлую паласу няправільнай формы, расцягнутую па небе. *Рассыпаны зоры брыльянтавым пухам, і Млечнага Шляху ляжаць абрусы таемным акордам спрадвечнай красы, як водгулле змоўкшай даўно завірухі.* Колас. *У зорным небе – Млечны Шлях.* Грахоўскі. *А праз усё неба, акурат зорны ручнік, цягнуўся Млечны Шлях.* Левановіч.
**ПРАВОДЗІЦЬ У АПОШНІ ШЛЯХ** *каго.* Гл. праводзіць.
**ПРАКЛАДАЦЬ САБЕ ШЛЯХ.** Гл. пракладаць.
**ПРАКЛАДАЦЬ ШЛЯХ** *каму, чаму, куды.* Гл. пракладаць.
**ПРАЦЯРЭБЛІВАЦЬ САБЕ ШЛЯХ** *куды.* Гл. працярэбліваць.
**СТАНАВІЦЦА НА ШЛЯХ** *чаго, які.* Гл. станавіцца.
*ШЛЯХУ* ● **СТАЯЦЬ НА ШЛЯХУ** *чыім, у каго.* Гл. стаяць.
*ШМАНАЕ* ● **НЕ ШМАН`АЕ.** *Часцей у 3-й ас. адз. ці мн. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Ні на што не зважае, не рэагуе. **Сін**.: і вокам не вядзе; і вухам не весці; <і> не лыс; <і> у вус <сабе> не дзьмуць; хоць бы хны (у 1 знач.); хоць бы што (у 1 знач.). *Мікуць з яго пасміхваецца, Мікалай не шманае.* Чорны. *Вунь Рыжага ж тады, пасля той ночы, не каралі... Наадварот, вылечылі, у Ельніках вунь цяпер. Жыве і не шманае.* Сачанка. *І не шманаюць [жывёлы], што плывуць, вада, а страху — ані знаку.* Лужанін.
*ШМАТ* ● **ШМАТ БРАЦЬ НА СЯБЕ.** Гл. браць.
*ШМАТЛІКІМІ* ● **ЗАДАЧА СА ШМАТЛІКІМІ НЕВЯДОМЫМІ.** Гл. задача.
*ШНЫРУ* ● **КАБ І ШНЫРУ НЕ БЫЛО** *чыйго <дзе>.* Гл. было.
*ШОРЫ* ● **БРАЦЬ У ШОРЫ** *каго.* Гл. браць.
**ЛЕДЗЬ ШОРЫ ЦЯГАЦЬ.** Гл. цягаць.

*ШОСТАЕ* ● **ШОСТАЕ ПАЧУЦЦЁ**. Гл. пачуццё.
*ШПАГІ* ● **ЛАМАЦЬ ШПАГІ** *з-за каго, за што, з якой прычыны.* Гл. ламаць.
**СКРЫЖОЎВАЦЬ ШПАГІ** *з кім.* Гл. скрыжоўваць.
*ШПІЛЕК* ● **ПАДПУСКАННЕ ШПІЛЕК.** Гл. падпусканне.
*ШПІЛЬКУ* ● **ПАДПУСКАЦЬ ШПІЛЬКУ** *каму.* Гл. падпускаць.
**ПАДПУСКАЦЬ ШПІЛЬКУ ПАД ПАЗНОГЦІ** *каму.* Гл. падпускаць.
*ШПУНТ* ● **АД К`ОЖНАЙ Б`ОЧКІ ШП`УНТ.** *Мн. не ўжыв. Часцей у ролі вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Той, хто любіць умешвацца ў многія справы. **Сін**.: пад кожную бочку шпунт; пад усе бочкі шпунт. *Другі — ад кожнай бочкі шпунт, ахвочы да лазы, да ягад...* Барадулін. *Судакоў нават падумаў, што зараз яны [хлопцы] скажуць нешта абразлівае, і правільна зробяць, бо няма чаго быць шпунтом ад кожнай бочкі.* Радкевіч.
**ПАД К`ОЖНУЮ (УС`ЯКУЮ) Б`ОЧКУ ШП`УНТ.** *Мн. не ўжыв. Часцей у ролі вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Той, хто любіць умешвацца ў многія справы. **Сін**.: ад кожнай бочкі шпунт; пад усе бочкі шпунт. *Заўсёды быць імкнецца на віду, калі яму так выгадна, вядома... Хто ён такі? Не цяжка здагадацца — пад бочку кожную гатовы шпунт!* Валасевіч. *Вы, Лаўрэн Карпавіч, пад усякую бочку шпунт.* Гроднеў.
**ПАД УС`Е Б`ОЧКІ ШП`УНТ.** *Мн. не ўжыв. Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Той, хто любіць умешвацца ў многія справы. **Сін**.: ад кожнай бочкі шпунт; пад кожную бочку шпунт. *[Шаркун:] Бачыў? Таксама, разумееш, гнілая інтэлігенцыя — усюды нос суне. Пад усе бочкі шпунт. Распусціліся, разумееш. Крытыкуюць, вешаюць на цябе ўсіх сабак.* Васілеўскі. — А *ты — пад усе бочкі шпунт! — выгукнуў у адказ Вуцёха.* Масарэнка.
*ШРАЦІНА* ● **ЯК (ШТО) СЛАН`У ШРАЦ`ІНА** *каму, для каго. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. і абстр. прадмета. Нічога не значыць для каго, не ўплывае на каго ці што-н. *Ён зусім не выглядаў на п'янага. Яшчэ б, – з зайздрасцю адначыў Трухан, – пры такім здароўі што яму нейкія тры чаркачкі? – як слану шраціна.* Федарэнка. *Сарамаціць нахабніка, ставіць на месца, маралізаваць адносна таго, што не трэба многа розуму, каб загнаць у кут старога настаўніка.., не было сэнсу. Для снобаў гэтыя ўшчуванні што слану шраціна.* Зяньковіч.
*ШТАБ* ● **АДПРАВІЦЬ У ШТАБ ДУХОНІНА** *каго.* Гл. адпраўляць.
*ШТАНОЎ* ● **БЕЗ ШТАНОЎ** *застацца. У знач. кампанента сastaўн. імен. вык. Праст.* Бедны, даведзены да галечы. **Сін**.: з голымі рукамі (у 1 знач.); з носам; з такам; ля разбітага карыта; на бабах; ні з чым;

нясолана хлябаўшы; перад разбітым карытам; пры пікавых інтарэсах. *[Сімон:] Рызыкант! Ён сам сабе і мне шыю скруціць... На чорта мне твая дружба, калі я застануся без штаноў!* Самуйлёнак. *Я быў спецыяльна вядро з вадой каля засека на ноч пакінуў. Што ты думаеш? На другі дзень — сухое вядро. А прымі я без скідкі?! Без штаноў застанешся.* Тычына.

**ПРАСЕДЖВАННЕ ШТАНОЎ.** Гл. праседжванне.

*ШТАНЫ* ● **ПРАЦІРАЦЬ ШТАНЫ** *дзе.* Гл. праціраць.

*ШТО* ● **АЛАХ ВЕДАЕ ШТО.** Гл. алах.

**БОГ ВЕДАЕ ШТО.** Гл. бог.

**БУДЗЬ ШТО БУДЗЕ.** Гл. будзь.

**ВОСЬ <ЯНО> ШТО!** Гл. вось.

**ГЛЯДЗЕЦЬ НЯМА НА ШТО.** Гл. глядзець.

**ГЛЯДЗІ ШТО.** Гл. глядзі.

**ДАРМА ШТО.** Гл. дарма.

**ДЗІВА ШТО!** Гл. дзіва.

**ЁСЦЬ ПРА ШТО ГАВАРЫЦЬ!** Гл. гаварыць.

**ЛІХА ВЕДАЕ ШТО.** Гл. ліха.

**МАЛА ШТО.** Гл. мала.

**НЕ БОГ ВЕДАЕ ШТО.** Гл. бог.

**НЕ ШТ`О `ІНШАЕ ЯК.** *У знач. ўзмацн. часціцы. Кніжн.* Іменна, толькі; якраз тое, пра што гаворыцца далей. *Пасля гэтых Абрамавых слоў Казімера ўзяла не што іншае як вялікая цікавасць — пабачыць Маню...* Чорны. *Яны ўсе, у тым ліку і вартавыя, схільны былі думаць, што прычынай пажару з'яўляецца не што іншае як удар маланкі.* Лынькоў.

**НІ ЗА ШТ`О.** *Акал. Функц. не зам. Ужыв. у адмоўн. ск. (для ўзмацнення адмоўя) пры дзеясл.-вык. зак. тр.* Ні пры якіх умовах, абставінах. **Сін**.: ні божа мой (у 2 знач.); ні за што на свеце; ні за якія грошы; ні ў жысць; ні ў якім разе; ніякімі сіламі. *Жывёлу, хлеб адабраць можна, а волю — ні за што!* Ваданосаў. *Сыны па гарадах, толькі на свята тады-сяды прыязджаюць. Кепска ёй адной будзе, цяжка... А ў горад жа, пэўна, ні за што не захоча паехаць...* Дудараў.

**НІ ЗА ШТ`О НА СВ`ЕЦЕ.** *Акал. Размн. Ужыв. у адмоўн. ск. (для ўзмацнення адмоўя) пры дзеясл-вык. зак. тр.* Ні пры якіх умовах, абставінах. **Сін**.: ні божа мой (у 2 знач.); ні за што; ні за якія грошы; ні ў жысць; ні ў якім разе; ніякімі сіламі. *[Пан:] Спяшайцеся, калі не хочаце папасці ў лапы каліноўцам! [Пані:] Не, не, ні за што на свеце!* Клімковіч. *Калі б да вайны школьніку Міколу Голубу сказалі, што ён будзе аграномам, стане старшынёй калгаса, то ён не паверыў бы гэтаму ні за што на свеце.* Навуменка. *Нікому ні за што на свеце не*

*расказала б яна [Надзя] пра тыя свае пакуты, а Віцю чамусьці расказала, даверліва выклала ўсё, чым балела душа.* Сіняўскі.

**НІ ЗА ШТ`О НІ ПРА ШТ`О** прападаць (прапасці), гінуць (загінуць) і пад. *Акал. Разм.* Зусім дарэмна, без усякай прычыны. **Сін**.: вечным правам; за гнілую рыбу; ні за грош; ні за капейку; ні за панюх табакі; як рудая мыш. *Сумуеш, Ленка? Ну, не гаруй, не такі ён хлопец, каб загінуць ні за што ні пра што.* Лынькоў. *Муж і бацька іх быў будаўніком, не то мулярам, не то цесляром, і загінуў, можна сказаць, ні за што ні пра што.* Ракітны. *Другі раз Ганька абавязкова агрызнулася б (асабліва калі вось так возьмуць і ні за што ні пра што насварацца на цябе).* Васілевіч. *Ну што ты, Піліпавіч, чапляешся, бы той дзядоўнік, ні за што ні пра што на ражон лезеш.* Праскураў.

**НІ ЦЫБУЛЬКІ НІ ЎКРЫШЫЦЬ <У ШТО>.** Гл. цыбулькі.

**НЯМА ШТО КАЗАЦЬ.** Гл. няма.

**ТОЛЬКІ СВЕТУ ШТО Ў АКНЕ** <*у каго*>. Гл. свету.

**УСЁ АДНО ШТО.** Гл. усё.

**УСЁ РОЎНА ШТО.** Гл. усё.

**Х`ОЦЬ БЫ ШТ`О.** *Разм.* **1**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы ці адуш. прадмета. Ніяк не рэагуе, не звяртае ніякай увагі на што-н. **Сін**.: і вокам не вядзе; і вухам не весці; <і> не лыс; <і> у вус <сабе> не дзьмуць; не шманае; хоць бы хны (у 1 знач.). *Сайка пачаў торгаць Міколу за локаць. Мікола хоць бы што!* Бядуля. *Бацюшка пазіраў на іх [хлопцаў] скоса, а яны хоць бы што.* Чарот. *Беня сядзіць на перадку сваёй буды і ціха пасвіствае. Але конь хоць бы што — ні ўзад ні ўперад.* Лынькоў. *Стары Барсік ужо. Нічогенька не чуе. Мышы пішчаць, а ён хоць бы што.* Левановіч.

**2**. *каму. У безас. ужыв.* Нічога не робіцца з кім-н., нічога не дзейнічае на каго-н. **Сін**.: і не знайся (у 2 знач.); хоць бы дзічкі *каму*; хоць бы цвік <*каму*>; хоць бы хны (у 2 знач.). *Толькі мясцовыя жыхары, большасць з якіх носяць велізарныя капелюшы, снуюць сабе пад сонцам узад і ўперад, і хоць бы што.* Маўр. *І от дзіва: гэты самы Паўлік, ма-а-ленечкі яшчэ быў, і карміў і паіў яе, начамі не адыходзіў — і хоць бы што — ніякая хвароба да яго не прыстала.* Грахоўскі. *Другога на месцы Ліпая за гэты рэстаран і начальства, і той жа брат старшыня задзяўблі б, зацюкалі, а Ліпаю хоць бы што. Усе да яго з паклонам, руку ловяць, у вочы зірнуць імкнуцца.* Казько.

**3**. *каму. У безас. ужыв. Часцей неадабр.* Абсалютна аднолькава, без розніцы, не мае значэння для каго-н., не хвалюе, не кранае каго-н. **Сін**.: абы дзень да вечара *каму* (у 2 знач.); адзін хрэн *каму*; адзін чорт <*каму, для каго*>; адна трасца <*каму*>; адна халера; адно ліха; і гора мала *каму*; і не шум баравы *каму*; ні горача ні холадна *каму ад чаго*;

усё адно (у 2 знач.); усё роўна (у 4 знач.); хоць бы хны (у 3 знач.); хоць воўк траву еш; хоць патоп; хоць трава не расці <*каму*>; што з гусі вада *з каго, каму*; як з гусака вада *з каго. — Гуляюць, — ён паказаў на моладзь, — а пра жыццё мала думаюць, ім хоць бы што...* Галавач. *— Бяры рыдлёўку, і капаць! — паспакайнеўшы пасля прыпадку злосці, загадвае Жаўтых... Але Задарожнаму хоць бы што. Ён не спяшаецца выконваць загад.* Быкаў. *Дзверы ў прыгрэбак зусім адваліліся, а яму — хоць бы што.* Даніленка.

**Х`ОЦЬ ТЫ ШТ`О** *каму. Акал. Разм.* Нягледзячы ні на якія старанні, намаганні; што ні рабі (не выходзіць, не атрымліваецца што-н.). **Сін**.: хоць на кавалкі разрывайся; хоць памры; хоць разарвіся *каму* (у 2 знач.); хоць ты крыжам ляж; хоць <ты> лопні (у 1 знач.). *Старая і жонка ўперліся — хоць ты ім што.* Крапіва. *А жанчына тым часам — хоць ты ёй што — не вельмі спужалася яго [Журавінкі] голасу.* Лобан. *Не прызнае Свірыд свае віны — хоць ты што.* Карамазаў.

**ЦІ МАЛА ШТО.** Гл. мала.

**ЧОРТ ВЕДАЕ ШТО.** Гл. чорт.

**ЧОРТ ВЕДАЕ ШТО ТАКОЕ!** Гл чорт.

**ЧОРТ ШТО** *чаго.* Гл. чорт.

**ШТО АД КАЗЛА МАЛАКА.** Гл. казла.

**ШТО БАРАН У БІБЛІІ.** Гл. баран.

**ШТО БОГ ПАСЛАЎ.** Гл. бог.

**ШТО БОГУ ГРАШЫЦЬ.** Гл. грашыць.

**ШТО БОСАМУ РАЗУЦЦА.** Гл. разуцца.

**ШТО Б ТАМ НІ БЫЛО.** Гл. было.

**ШТО БУБЕН.** Гл. бубен.

**ШТО БУДЗЕ ТОЕ БУДЗЕ.** Гл. будзе.

**ШТО ВАВЁРКА Ў КОЛЕ.** Гл. вавёрка.

**ШТ`О В`ОЗЬМЕШ** *з каго, з чаго. У абаг.-асаб. ужыв. Разм. Неадабр. ці іран.* Нічога іншага, лепшага і чакаць ад каго- ці (радзей) чаго-н. не даводзіцца. *А ўрэшце што з яго возьмеш, калі ён сваю родную матку кінуў, як жывёліну, у трудную мінуту.* Колас. *Хай [нашы маладзёны] пагрукаюць, пабарабаняць, пабурапеняць.. Што з іх возьмеш...* Місько. *«Недарэчны загаловак» артыкулу даў сябар Саюза пісьменнікаў, аўтар каля дзесятка кніг. Ну, што з яго возьмеш, мабыць, спісаўся...* «Наша сл.» *– Пасля балю як быццам які грэх узяў на душу. – Успамінаць нават аб ім не хочацца. – Ну, што з яго возьмеш, з гэтага балю...* Трухан. *Начальнік аддзела кадраў, трыццаціпяцігадовая жанчына, запытальным позіркам глянула на госця. Позірк кабеты ўспыхнуў зоркай Венеры і патух дробным*

*вуглікам: што з яго возьмеш...* «Крыніца». *Я гадамі жыла бы замураваная ў сцяну. О, у сэнсе беларускамоўнага «культурнага асяроддзя» наша правінцыя – амаль тое самае, што Сант'яга-дэ-Куба, нават горш, бо там мая асаблівасць лёгка тлумачылася: маўляў, чужаніца, што з яе возьмеш!* Брава.

**ШТО ВОКА Ў ІЛБЕ.** Гл. вока.

**ШТ`О В`Ы (Т`Ы)!** *Выкл. Разм.* Вокліч здзіўлення пачутым і адмаўлення сказанага кім-н. — *Сам выдумаў ці хто наплёў?..* — *Што вы! Дзядзька Яўхім чуў, як грукаюць і скавычуць.* Грахоўскі. — *Нічога. Толькі, здаецца мне, крыху задаецца.* — *Ну, што ты! Рысуецца, справа іншая. Але гэта ад маладосці. А так — хлопец разумны.* Шамякін.

**ШТО ГАРОХ АБ СЦЯНУ** *каму, для каго.* Гл. гарох.

**ШТО ГАРОХ АД СЦЯНЫ.** Гл. гарох.

**ШТО ГОД.** Гл. год.

**ШТО ГРАХУ ТАІЦЬ.** Гл. таіць.

**ШТО ЁСЦЬ ДУХУ.** Гл. духу.

**ШТО ЁСЦЬ СІЛЫ.** Гл. сілы.

**ШТО ЗА КАМЕННАЙ СЦЯНОЙ.** Гл. сцяной.

**ШТО ЗА ЛІХА!** Гл. ліха.

**ШТО ЗА ПЫТАННЕ!** Гл пытанне.

**ШТО ЗА ТРАСЦА!** Гл. трасца.

**ШТО ЗА ХВАРОБА!** Гл. хвароба.

**ШТО ЗА ЧАРТАЎШЧЫНА!** Гл. чартаўшчына.

**ШТО ЗА ЧОРТ!** Гл. чорт.

**ШТО З ГУСІ ВАДА** *з каго, каму.* Гл. вада.

**ШТО З НОСА СПАДЗЕ** *даваць* і пад. Гл. спадзе.

**ШТО ЗРОБІШ.** Гл. зробіш.

**ШТО ЗЯМЛЯ.** Гл. зямля.

**ШТО ІГОЛКА Ў СТОЗЕ <СЕНА>.** Гл. іголка.

<u>*Растлумачваць, разумець, расказваць*</u> і пад. **ШТ`О <І> ДА ЧАГ`О.** *У знач. дадан. ск. Разм.* У чым галоўны сэнс чаго-н. *І, прызнацца, толькі тады з воч маіх слепата сышла ранейшая — стала бачыць я, у людзях разбірацца, уцяміла, што і да чаго.* Лынькоў. *Адны цьмяна здагадваліся, што і да чаго тут, другія не інакш як ведалі, у чым справа.* Хадкевіч. — *А вы паслухайце раней толкам, што да чаго,* — *каморнік падняў руку, каб замоўклі.* Галавач. *Паклікаў я таго багацея на двор і расказаў яму, што да чаго.* Брыль.

**ШТО <І> КАЗАЦЬ.** Гл. казаць.

**ШТО КОСТКА Ў ГОРЛЕ** *каму.* Гл. костка.

**ШТО ЛУНЬ.** Гл. лунь.
**ШТО НАЗЫВАЕЦЦА.** Гл. называецца.
**ШТО НА ПЛОТ ВЕШАЦЬ.** Гл. вешаць.
**<ШТО> НЕБА І ЗЯМЛЯ.** Гл. неба.
**ШТО НІ КАЖЫ.** Гл. кажы.
**ШТО НІ КРОК.** Гл. крок.
**ШТО НІ <НА> ЁСЦЬ.** Гл. ёсць.
**<ШТО> НОЖ У СЭРЦА** *каму, для каго.* Гл. нож.
**ШТО ПРАЎДА ТО ПРАЎДА.** Гл. праўда.
**ШТО САБАКУ МУХА** *для каго, каму.* Гл. муха.
**ШТО СВІННЯ Ў АПЕЛЬСІНАХ.** Гл. свіння.
**ШТО СЕРАДА НА ПЯТНІЦУ.** Гл. серада.
**ШТО СЛАНУ ШРАЦІНА.** Гл. шраціна.
**ШТО СЛІНА НА ЯЗЫК ПРЫНЯСЕ.** Гл. сліна.
**ШТО ТО Я.** Гл. я.
**ШТО ТРЭБА.** Гл. трэба.
**ШТО ТЫ КАЖАШ!** Гл. ты.
**ШТО ЎБІЎ ТО <І> УЕХАЎ.** Гл. убіў.
**ШТО Ў ВАДУ КАНУЎ.** Гл. кануў.
**ШТО Ў ЛОБ ШТО ПА ЛБЕ.** Гл. лоб.
**ШТО ХАЛОДНЫ САМАВАР.** Гл. самавар.
**ШТО ЦЫГАН КОНЕЙ** *мяняць.* Гл. цыган.
**ШТО ШЫЛА Ў МЯШКУ.** Гл. шыла.

*Калі, як* **ШТ`О ЯК`ОЕ.** *У знач. безас. вык. дадан. ск. Разм.* (Калі) узнікнуць якія-н. цяжкасці, здарыцца што-н. *Калі што якое, страляйце не задумваючыся.* Маўр. *Ехаць будзем ціха. Калі што якое — не сядзець на калёсах.* Пташнікаў. *[Мандрыкін:] Работнік, трэба сказаць, нікуды не варты. А як што якое, дык яшчэ крытыкаваць лезе: і тое не гэтак і гэта не так.* Крапіва.

**ЯЗЫК ШТО БРЫТВА.** Гл. язык.

*ШТУКА* ● **ВОСЬ ДЫК ШТУКА.** Гл. вось.

*ШТЫК* ● **ЯК ШТ`ЫК** *быць, з'явіцца* і пад. *Акал. Праст.* Абсалютна дакладна, у патрэбны час. *Абрыдла мне да цябе хадзіць ці людзей пасылаць. Каб на рабоце з заўтрашняга дня як штык быў.* Сачанка. *[Нюра:] І глядзі, не пазніся. Каб а палове трэцяй быў як штык каля дзвярэй загса.* Васілеўскі. *Парадкі ва універсітэце быццам тыя ж самыя, салдацкія. Будзь як штык заўсёды на лекцыях.* Мыслівец. *Ты толькі не забудзь у сельсавеце толю выпісаць, а я ў суботу паяўлюся як штык.* Гігевіч.

*ШТЫКІ* ● **У ШТЫК`І** *сустракаць (сустрэць). Акал. Разм.* Крайне варожа, з непрыязнасцю. *Тых, хто заклікаў на працу, салаўчане*

*сустракалі ў штыкі, не хацелі пра будаўніцтва і слухаць.* Галавач. *Некаторыя нашы паэты, відаць, хочуць дамагчыся сабе лёгкага жыцця, калі вымагаюць сабе пахвал, сустракаюць у штыкі нават прыватныя заўвагі.* «ЛіМ».

*ШУКАЕ* ● **ГАЛАВА ГУЗА ШУКАЕ** *чыя.* Гл. галава.

*ШУКАЙ* ● **ШУК`АЙ В`ЕТРУ Ў П`ОЛІ** *<калі>. Толькі ў заг. л. У знач. галоўн. чл. абаг.-асаб. ск. Разм.* Назад не вернеш, не знойдзеш каго-н. Пра безнадзейныя пошукі каго-н. **Сін**.: лаві бягучага ваўка след *калі*; лаві вецер у полі. *Грушка караў сябе ў думках за такую сваю нядбайнасць. Цяпер шукай ветру ў полі.* Пестрак. *[Цiток:] Трэба паспець на дарозе іх злавіць, бо тады шукай ветру ў полі.* Лобан. *Перад тым як завярнуць у вулачку, Кульгавы азірнуўся: нікога следам. Ён з палёгкай усміхнуўся: цяпер шукай ветру ў полі.* А.Жук.

*ШУКАЦЬ* ● **Ц`ЕРАЗ ХЛ`ЕБ (АД ХЛ`ЕБА) ШУК`АЦЬ ХЛ`ЕБА.** *Незак. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Мяняць становішча, прывычны парадак жыцця і пад. *—Ай-ёй, куды яму, беднаму, без нагі... — Нічога, цешча, мы і на адной назе з другімі справімся. А ты, стары, не мялі. Я пакуль што цераз хлеб хлеба шукаць не збіраюся.* Брыль. *— Дзяцей хацела ашчасл іві ць, — паспрабавала знайсці нарэшце нейкае апраўданне Стася. — Каго ж ты спадзявалася перавезці сюды, Фелікса ці Зосю? Хто з іх ад хлеба пойдзе шукаць хлеба?* Пальчэўскі.

**ШУК`АЦЬ Г`УЗА НА СВА`Ю ГАЛАВ`У.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Напрошвацца на непрыемнасці. **Сін**.: падстаўляць <сваю> галаву; падстаўляць <сваю> галаву пад абух; шукаць сабе пятлі <на шыю>. *Не з добрага жыцця [Сяргей Сяргеевіч] узяў гэтых «вучоных». Навошта шукаць гуза на сваю галаву, калі б былі свае будаўнікі, каб рабілі гэтак жа хутка.* Супрунчук. *З маладых, хто больш граматны ды хітры, той каля начальства аціраецца — ці ж ён на сваю галаву шукаць гуза будзе!* Лецка.

**ШУК`АЦЬ САБ`Е ПЯТЛ`І <НА Ш`ЫЮ>.** *Незак. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Лезці ў небяспечную, рызыкоўную справу. **Сін**.: падстаўляць <сваю> галаву; падстаўляць <сваю> галаву пад абух; шукаць гуза на сваю галаву. *[Шугаеў:] Ну, сапраўды... Хто ад нас патрабуе гэтых палепшанняў? Ніхто. Дык нашто ж нам шукаць сабе пятлі на шыю?* Крапіва. *Добрага чалавека туды і на вяроўцы не завалачэш, а ён [Рыгор] возьме ды сам пойдзе, сам сабе будзе пятлі шукаць.* Лецка.

**Ш`УКАЦЬ УЧАР`АШНЯГА ДН`Я.** *Незак. Разм. Жарт.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Траціць час на бяссэнсавыя пошукі чаго-н. —

*Ці не ўчарашняга шукаеш дня, Гарыдавец?.. — Што ж, адгадаць табе не цяжка, ведаеш, сама. Знарок я выйшаў, каб цябе спаткаць.* Танк. А *мы ходзім па лесе, як тыя дурні, шукаем учарашняга дня, калі тут усё гатовае...* Сяркоў. *А табе Віктарка, параю: не шукай учарашняга дня. На ліха гэта.* Супрунчук.

*ШУМ* ● **І НЕ Ш`УМ БАРАВ`Ы** *каму. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. ні на што не звяртае ўвагі, каго-н. нічога не хвалюе. **Сін**.: абы дзень да вечара *каму* (у 2 знач.); адзін хрэн *каму*; адзін чорт <*каму, для каго*>; адна трасца <*каму*>; адна халера; адно ліха; і гора мала *каму*; ні горача ні холадна *каму ад чаго*; усё адно (у 2 знач.); усё роўна (у 4 знач.); хоць бы хны (у 3 знач.); хоць бы што (у 3 знач.); хоць воўк траву еш; хоць патоп; хоць трава не расці <*каму*>; што з гусі вада *з каго, каму*; як з гусака вада *з каго. Шараю гадзінаю выйшаў ён [Вінцэнт] у шчыры бор з маладняку. І не шум баравы яму ў гэтым бары па японскай вайне.* Калюга. *Цяпер прыдбае сабе боты маладыкаторы, дык ён, шылахвосціна, і ў свята, і ў будні дзень адзяе. І ў поле, і ў лес адзяе... А дзеўкі, дык тыя выкручваюцца ў шаўковых сукенках — ім і не шум баравы...* Каваль. *[Хлопцы], пазбіваўшы замкі, клямкай свірнавай бразгалі, пад мяцёлку засек і — не шум баравы! Латашылі гароды, па пчэльніках лазілі...* Лужанін.

*ШУМІЦЬ* ● **АЖ ГАЙ ШУМІЦЬ.** Гл. гай.

*ШУМОК* ● **ПАД ШУМ`ОК.** *Акал. Разм.* Употайкі, непрыкметна для іншых, незаўважна, маскіруючыся (рабіць што-н.). **Сін**.: пад сурдзінку (у 2 знач.); ціхай сапай. *Яшчэ пры жыцці нябожчык гаспадар пад шумок адпальваў такія штукі, што і цяпер душа халаднее, каму ўсё тое хоць крышку ў памяці засталося.* Галубок. *Вось так пад шумок правёў я ў зацішку гэтыя неспакойныя гады, і сёння ты можаш вітаць мяне з годнасцю вучонага агранома.* Крапіва.

*ШУРУМ* ● **ШУР`УМ-БУР`УМ.** *Мн. не ўжыв. Дзейн. ці дап. Праст. Неадабр.* Крайні беспарадак, сумятня. **Сін**.: вавілонскае стоўпатварэнне; мамаева пабоішча (у 2 знач.); садом і гамора; страсці-мардасці; сыр-бор. **Ант**.: ціш ды гладзь. — *Цішэй вы! — гукнуў густы, басісты голас. — Яшчэ, можа, хочаце, каб самы далёкі гарадавік у горадзе пачуў наш шурум-бурум...* Нёманскі. *Заходжу раз зімой да іх [сям'і Паўлюка] і не ведаю, куды ступіць, дзе прысланіцца: сцены чаем ды вінам залітыя, усюды — акуркі, попел, чарапкі. Ну — шурум-бурум.* Калодзежны.

*ШУРЫ* ● **Ш`УРЫ-М`УРЫ.** *Нескл. Адз. не ўжыв. Часцей дап. Разм. Жарт.* Любоўныя справы. — *Слаўная мая... Як я люблю цябе!.. — О, ты не баішся, што падумаюць пра свайго камандзіра? Не баішся за свой аўтарытэт? Завёў шуры-муры...* Шамякін. *Што, думаю, за ліха, ці*

*не шуры-муры якія завёў тут мой Алесь Іванавіч.* Быкаў. — *Калі ў вучылішчы расказаць, якія ты «шуры-муры» ў атрадзе круціў... Ха-ха! — штучна засмяяўся Віктар, выразна зірнуўшы на Аню.* Кобец-Філімонава.

*ШУФЛЯДУ* ● **У ШУФЛ`ЯДУ** пісаць, перакладаць. *Акал. Разм.* Без надзеі на апублікаванне напісанага ў бліжэйшай будучыні. **Сін.**: у стол. *Мне няма чаго ўтойваць. І таму я ўсё жыццё не пісаў у шуфляду. Іншая справа, што мне цяпер трэба ад многага з напісанага адмовіцца.* Лужанін. *Вельмі крыўдна было пачуць, што Васіль Сёмуха перакладае сёння ў шуфляду.* Іпатава.

*ШУХ* ● **БРАЦЬ У ШУХ.** Гл. браць.

*ШЧАКІ* ● **ЗА АБ`ЕДЗВЕ ШЧАК`І** ўплятаць, умінаць. *Акал. Разм.* З вялікім апетытам, хутка і прагна. **Сін.**: аж за вушамі трашчыць; аж нос гнецца; за маліну (у 1 знач.); на поўную губу (у 2 знач.); на поўны рот; на ўвесь рот (у 1 знач.). **Ант.**: як на плот вешаць. *Неўзабаве Пеця за абедзве шчакі ўплятаў вялікую лусту пульхнага, духмянага калача...* Гіль. *Генерал падзякаваў, загадаў, каб прынеслі кашы малым, і ласкава, усмешліва гаварыў з імі, гледзячы, як тыя ўплятал за абедзве шчакі смачны ласунак.* Радкевіч. *Голад не цётка, як кажуць, прысунуўся [я] на слоніку да шкапчыка, пачаў умінаць за абедзве шчакі цыбулю са смятанаю.* Ягоўдзік.

*ШЧАКУ* ● **ЗА АДН`У ШЧАК`У** выпіць. *У знач. вык. Разм.* Вельмі проста, зусім не цяжка (выпіць), ніжэй чыіх-н. магчымасцей. **Сін.**: прасцей паранай рэпы; прасцей простага; раз плюнуць <*каму, для каго*>; як босаму разуцца; як плюнуць. *Гэта сёння можна пачуць пра кагосьці: «Яму паўлітра — за адну шчаку». Тады ж дзецюкі бралі бутэльку на чатырох-пяцёх, і ўсе былі вясёлыя.* Брыль.

*ШЧАСЛІВАЙ* ● **НАРАДЗІЦЦА ПАД ШЧАСЛІВАЙ ЗОРКАЙ.** Гл. нарадзіцца.

*ШЧОДРАЙ* ● **ШЧОДРАЙ РУКОЙ.** Гл. рукой.

*ШЧУПАКОВЫМ* ● **НІБЫ ПА ШЧУПАКОВЫМ ЗАГАДЗЕ.** Гл. загадзе.

*ШЧЫГРЫНАВАЯ* ● **ЯК ШЧЫГРЫНАВАЯ СКУРА.** Гл. скура.

*ШЧЫРАГА* ● **АД ШЧЫРАГА СЭРЦА.** Гл. сэрца.

*ШЧЫРАЙ* ● **АД ШЧЫРАЙ ДУШЫ.** Гл. сэрца.

*ШЧЫТ* ● **ПАДЫМАЦЦА НА ШЧЫТ.** Гл падымацца.

**ПАДЫМАЦЬ НА ШЧЫТ** *каго, што.* Гл. падымаць.

*ШЧЫТОМ* ● **СА ШЧЫТ`ОМ.** *Часцей у знач. вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. З перамогай, пераможцам (з’явіцца, вярнуцца і пад.). **Сін.**: на белым кані; на кані. **Ант.**: на шчыце; пад канём. —*Ну як: са шчытом ці на шчыце? — прыжмураным вокам сустрэў Марыну Паўлаўну высокі мужчына.* Васілевіч.

*ШЧЫЦЕ* ● **НА ШЧЫЦ`Е.** *Часцей у знач. вык. Функц. не зам.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Пераможаны, з паражэннем. **Сін**.: пад канём. **Ант**.: на белым кані; на кані; са шчытом. *Праўда, яшчэ невядома, ці не спяшаецца ён, Корзун, спраўляць перамогу, толькі будучыня пакажа, хто з іх са шчытом, а хто на шчыце.* Шыцік. *Маленькі, мужны летуценнік! Ён сёння запісаў у дзённік: «Ці са шчытом, ці на шчыце...»* Дзяргай.

*ШЧЭЛЕПЫ* ● **БРАЦЬ ЗА ШЧЭЛЕПЫ** *каго.* Гл. браць.

*ШЧЭПКУ* ● **У ШЧ`ЭПКУ** *высахнуць, высахлы. Акал. Разм.* Вельмі, празмерна. *Няма яму [Міхалу] нядзелькі, свята — ідзе ды йдзе ён, як закляты; у шчэпку высах з той хады, ад сну адбіўся, ад яды.* Колас. *Алаіза падумала, што ўжо бачыла вось такія кусцістыя бровы... у каго толькі?.. Але ж бачыла, бачыла... У Сымона! У старога, высахлага ў шчэпку Сымона...* Коўтун.

*ШЫБЕНІЦА* ● **ШЫБЕНІЦА ПЛАЧА** *па кім.* Гл. вісельня.

*ШЫВАРАТ* ● **Ш`ЫВАРАТ-НАВ`ЫВАРАТ.** *Акал. Разм.* Не так, як трэба, як павінна быць (ісці, пайсці, выходзіць, атрымліваецца і пад.). **Сін**.: дагары дном; дагары нагамі (у 3 знач.); сікась-накась. *За гэты час усё пайшло шыварат-навыварат.* Гартны. *Папусціішся, не знойдзеш патрэбнага ходу — і адразу ўсё пойдзе шыварат-навыварат.* Карпаў. *Божа, божа... што са мною робіцца? Чаму ўсё выходзіць наперакасяк, шыварат-навыварат?..* Радкевіч.

*ШЫЯ* ● **ВІСЕЦЬ НА ШЫІ** *ў каго, чаго, чыёй.* Гл. вісець.

**ДАВАЦЬ ПА ШЫІ** *каму.* Гл. даваць.

**ЗЛАЗІЦЬ З ШЫІ** *чыёй.* Гл. злазіць.

**НА ЗЛАМАННЕ ШЫІ.** Гл. зламанне.

**НА Ш`ЫІ** *ў каго, чыёй. Разм.* **1**. *Вык. і акал.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. На чыім-н. утрыманні, забеспячэнні. **Сін**.: за галавой *чыёй*; за плячамі *каго, у каго* (у 4 знач.); за спінай *чыёй* (у 3 знач.); на руках *чыіх, каго (* у 1 знач.); пад крылом *у каго, чым, каго. У гэтых дзядзькоў на шыі жонкі, дзеці.* Карпюк. *Ты ведала, што Аленін Хведар не вярнуўся з вайны, і што ў яе на шыі двое дзяцей, і што яны не мелі і той скібкі хлеба, якая была ў нашых.* Кудравец. *Жыць на айчымавай шыі для Віці было горш за смерць, асабліва цяпер.* Сіняўскі.

**2**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Быць прадметам пастаянных клопатаў. *— Ну як жа, ужо каторы тыдзень хоць бы воз камення падвезлі! — Усяму свой час, тут у мяне жніво на шыі, а ты — каменне!* Броўка. *[Ян Серафімавіч:] У Агея Мінавіча столькі спраў! Цэлы інстытут на яго шыі.* Валасевіч.

**СКІДАЦЬ <З ШЫІ> ЯРМО.** Гл. скідаць.

**СЯДЗЕЦЬ НА ШЫІ** *чыёй, у каго, каго.* Гл. сядзець.

**У ТР`Ы Ш`ЫІ** <u>*гнаць, выганяць*</u> і пад. *Акал. Праст. Груб.* Груба, з лаянкай ці пабоямі. **Сін**.: у шыю. *Ускіпела тая ўлада, гоніць у тры шыі. «Ведай, гад, пачым фунт ліха у цара Расіі».* Колас. *Цвярозы розум настойліва падазваў яму [дырэктару], што гэтага «дзеяча» трэба гнаць у тры шыі ад кнігабазы.* Краўчанка. *[Максімаўна:] Навошта ты лішні тлум на сваю галаву бярэш?.. Нарэйка ў такіх выпадках гнаў у тры шыі...* Зуб. *З такой, як сёння, работай не ўзнагароду даваць, а гнаць у тры шыі трэба.* Рыбак.

*ШЫЛА* ● **МЯНЯЦЬ ШЫЛА НА МЫЛА.** Гл. мяняць.

<u>*Вылазіць, вылезці*</u> **ЯК Ш`ЫЛА З МЯШК`А.** *Акал. Разм.* Непазбежна, відавочна, як бы ні ўтойвалася што-н. *Які б ні быў Мароз асцярожны, а, ведама, што-нішто, вылезла як шыла з мяшка.* Быкаў. *Усялякая штучнасць вылазіць з кароткага твора як шыла з мяшка.* Каржанеўская.

**ЯК (ШТО) Ш`ЫЛА Ў МЯШК`У.** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Штосьці відавочнае, яўнае, якое нельга ўтаіць, схаваць. *Гэта факт, які ніяк нельга абмінуць, хоць калі-небудзь ды ён можа нагадаць пра сябе. Гэта як шыла ў мяшку.* Дамашэвіч. *Любая, нават мізэрная радасць што шыла ў мяшку. Ну паспрабуй яе схаваць*. Палітыка.

*ШЫЛАМ* ● **ХАПІЦЬ ШЫЛАМ КАШЫ.** Гл. хапіць.

**ШЫЛАМ ХЛЕБ ЕСЦІ.** Гл. есці.

*ШЫЛЕ* ● <u>*Сядзець, адчуваць сябе*</u> **ЯК НА Ш`ЫЛЕ (-АХ).** *Вык. і акал. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы.У стане крайняга хвалявання, непакою, трывогі і пад. **Сін**.: як на <гарачым> вуголлі; як на іголках. *Маўчаць яны [дзеці], насы спусцілі, сядзіць дарэктар як на шыле.* Колас. У *пакоях Цыркіна Браніслав адчуваў сябе як на шыле, нешта яму там калола, муляла, здавалася, там дасюль пахла Цыркіным, яго трантамі.* Арабей. *Васіль.. сачыў за кожным паваротам Зосі і сядзеў як на шылах, дрэнчачы, каб хаця ўся гэта цырымонія з вячэраю скарэй скончылася.* Гартны.

*ШЫРОКАЕ* ● **ГОРЛА ШЫРОКАЕ.** Гл. горла.

**ГОРЛА ШЫРОКАЕ** *ў каго.* Гл. горла.

*ШЫРОКАЙ* ● **ШЫРОКАЙ КОСЦІ.** Гл. косці.

**ШЫРОКАЙ НАТУРЫ.** Гл. натуры.

*ШЫРОКАЯ* ● **ШЫРОКАЯ НАТУРА.** Гл. натура.

*ШЫРОКУЮ* ● **НА ШЫРОКУЮ НАГУ.** Гл. нагу.

*ШЫРЭЙ* ● **ТРЫМАЙ КІШЭНЬ ШЫРЭЙ!** Гл. трымай.

*ШЫТА* ● **Ш`ЫТА І КР`ЫТА (Ш`ЫТА-КР`ЫТА).** *Акал. і вык. Разм.* Скрытна, патаемна, у поўнай тайне ад іншых. *Яно б то ўсё шыта і*

*крыта было б, каб, скажам, бой пайшоў як след.* Лынькоў. *Згарэлі б вы былі, «начаткі»! Парву нашчэнт вас, небажаткі!.. А што ж? пакромсаць іх і квіта! Абы зрабіць тут шыта-крыта!..* Колас. — *Кажы, кажы!.. — З умоваю, што будзе шыта-крыта. Між намі? Згаджаешся?* Гартны. *А хлопчыкам карціць праверыць, ці ўсё ў іх шыта-крыта са здабычай.* Брыль.

**Ш`ЫТА (СШ`ЫТА) Б`ЕЛЫМІ Н`ІТКАМІ.** *Функц. не зам.* **1**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета. Няўмела, няўдала схавана, скрыта што-н. *Відаць, следчы зразумеў, што ў гэтай справе ўсё шыта белымі ніткамі, і пастарайся хутчэй збыць Сяргея з рук.* Машара. *Хітруе ваш Міхалёў, толькі хітрасць яго шыта белымі ніткамі.* Масарэнка. *І пачынаюць нагрувашчвацца гісторыі, адна неверагодней за другую, і ўсе яны сшыты белымі ніткамі.* «Звязда».

**2**. *Азн.* Няўмела, няўдала схаваны, скрыты. *Часам.. [Зоська] пачынала яго [Антона] ненавідзець за яўны, шыты белымі ніткамі, разлік.* Быкаў. *Светлыя галовы сярод прагрэсіўнай польскай інтэлігенцыі ўжо ў тыя часы адкінулі прэч гэтыя белымі ніткамі шытыя донкіхоцкія шляхецкія легенды.* «Полымя». *Як на мой розум, дык і добра, што не відаць гэтых самых звенняў і ніцей, бо не выклікае захаплення сшыты белымі ніткамі твор.* Лецка.

*ШЫТЫ* ● **Л`ЫКАМ Ш`ЫТЫ (-А, -АЯ, -ЫЯ).** *Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Неадукаваны, пазбаўлены ведаў, прастакаваты. *Ты, Насцюшка мая, шыта лыкам, калі цяперашнім светам на відавока сябе выстаўляеш.* Баранавых. *Андрэй прастарэкаваў пра цемнату людскую, пра калектывізацыю — новы шлях для людзей, паказваючы, што і тут, у глушы, таксама не ўсе лыкам шыты.* Мележ.

**НЕ Л`ЫКАМ Ш`ЫТЫ (-АЯ, -ЫЯ).** *Вык. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не горшы за іншых, не пазбаўлены здольнасцей, ведаў і пад. **Сін**.: не левай нагой смаркацца; самі з вусамі. **Ант**.: у бога цяля ўкраў. *Не лыкам шыты петрушоўцы і бачаць панскіх слуг наскрозь.* Колас. *Трымаўся з генералам камбрыг паважна і неяк інтымна, нібы паказваў, што ён таксама не абы-хто, не лыкам шыты, а ваенны, кадравы.* Мележ. *Сасноўскі стаіў хітрую ўсмешку — радаваўся, што яго людзі не лыкам шытыя, іншаму сталічнаму ачко дадуць.* Шамякін. **ЛЫКАМ ШЫТЫ.** З супрацьлеглым знач. — у пытальных ск. *[Лабыш:] Ён жа пан... [Анатоль:] А мы што — лыкам шыты?* Козел. *Пераходны сцяг трымаем... Можа, і зорку займеем! А што? Думаеш, зямляк твой лыкам шыты?* Аношкін.

*ШЫТЫЯ* ● **АДН`ЫМ Л`ЫКАМ Ш`ЫТЫЯ.** *Вык. Разм. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі падобныя адзін на аднаго ў

якіх-н. адносінах; адзін не лепшы за другога; з аднолькавымі недахопамі. **Сін**.: абое рабое; аднаго крою; аднаго поля ягада; адным мірам мазаны; два боты пара; <з> аднаго балота чэрці; з аднаго цеста <спечаны>; зроблены на адзін капыл; на адзін капыл (у 1 знач.); на адзін лад; на адзін манер (у 1 знач.). **Ант**.: з іншага цеста <спечаны>; не з такога цеста зроблены. — *Ды гэта ж не пра Юшчыху! Гэта ж пра Плюшчыху! — Усё роўна! Адным лыкам шытыя!* Кобец. *Духоўна адным мы лыкам шытыя. Адзін аднаму — сябар і брат.* Вярцінскі.

*ШЫША* ● **НІ ШЫШ`А.** *Акал. Праст. Груб. Неадабр.* Зусім нічога (няма, не мець, не бачыць і пад.). **Сін**.: голаму за пазуху; дзірка ад абаранка; ні грана; ні сінь-пораху; ні фіга; ні халеры; ні храна; ні чорта. *[Пайла:] Глядзіце ж!.. Я гляджу і ні шыша не бачу.* Клімковіч. *А іншы й справу разумее, і непаганая душа — а ўсе гавораць: «Жыць не ўмее: няма ў запасе ні шыша..»* Гілевіч. *Хваробішча, хваробіца не зробяць ні шыша, калі раптоўна робіцца відушчаю душа.* Барадулін.

*ШЫШКІ* ● **<УС`Е> Ш`ЫШКІ С`ЫПЛЮЦЦА (В`АЛЯЦЦА, ЛЯЦ`ЯЦЬ)** *на каго*; **<УС`Е> Ш`ЫШКІ ПАС`ЫПЛЮЦЦА (ПАВ`АЛЯЦЦА, ПАЛЯЦ`ЯЦЬ)** *на каго. У безас. ужыв. Разм.* Усякія непрыемнасці абрушваюцца на каго-н. *Косцік паварочваецца, ідзе. Ці плакаць яму, ці смяяцца. Неяк прывык ужо, што адусюль на яго могуць сыпацца толькі шышкі.* Арабей. — *А пры чым тут Беражкоў? — Такое з кожным можа здарыцца... — Э, не, цяпер усе шышкі на яго аднаго пасыплюцца...* Васілёнак. *У мыле конь, не бачыш? Змарыўся. Загоніш. На каго шышкі пасыплюцца?* Калодзежны. *Максім пасмяяўся са страхаў Рагачоўскага, сказаўшы, што на гэты раз усе шышкі паляцяць на яго, галоўнага.* Шамякін.

*ШЫЮ* ● **ВЕШАЦЦА НА ШЫЮ** *каму.* Гл. вешацца.

**ГНУЦЬ <СВАЮ> ШЫЮ** *перад кім.* Гл. гнуць.

**ДОЖДЖ ЗА ШЫЮ НЕ ЛЬЕ.** Гл. дождж.

**ЗА ШЫЮ НЕ КАПАЕ.** Гл. капае.

**ЗВЯРНУЦЬ <САБЕ> ШЫЮ.** Гл. звярнуць.

**ЗВЯРНУЦЬ ШЫЮ** *каму.* Гл. звярнуць.

**ЗЛАМАЦЬ САБЕ ШЫЮ.** Гл. зламаць.

**КІДАЦЦА НА ШЫЮ** *каму.* Гл. кідацца.

**МЫЛІЦЬ ШЫЮ** *каму.* Гл. мыліць.

**НАДЗЯВАЦЬ <САБЕ> ХАМУТ НА ШЫЮ.** Гл. надзяваць.

**НА СВАЮ ШЫЮ.** Гл. галаву.

**НА Ш`ЫЮ** *каго, чыю. Дап. Разм. Неадабр.* На чыё-н. утрыманне, забеспячэнне. *То пан паліцэйскі, то пан саквестратар, то пан які-небудзь Цаба — усе на нашу мужыцкую шыю.* Брыль. *Чаму твой Мішка тут? Што, дома месца яму няма? Выправіла на шыю мацеры.*

*Ну?* М.Капыловіч.

**ПА <С`АМУЮ> Ш`ЫЮ.** *Акал. Разм.* **1**. Вельмі моцна, надзвычайна (заняты чым-н., загружаны і пад.). **Сін**.: па <самае> горла (у 1 знач.). *Купала жыў — і вельмі інтэнсіўна, загружаны працай па шыю.* Лойка.

**2**. Звыш усякай меры (нарабіць чаго-н., нацярпецца і пад.). **Сін**.: па <самае> горла (у 2 знач.). *Крамера слухаць хопіць. Мала што яму ўзбрыдзе ў галаву. Нарабілі і без гэтага паскудства. Па самую шыю...* Навуменка.

**САДЗІЦЦА НА ШЫЮ** *каму, чыю, каго.* Гл. садзіцца.

**САДЗІЦЬ НА ШЫЮ** *чыю, каму каго.* Гл. садзіць.

**СКРУЦІЦЬ <САБЕ> ШЫЮ**. Гл. скруціць.

**СКРУЦІЦЬ ШЫЮ** *каму.* Гл. скручваць.

**У Ш`ЫЮ (У К`АРАК, У КАРШ`ЭНЬ)** гнаць, пагнаць і пад. *Акал. Праст. Груб.* Груба, з лаянкай ці пабоямі. **Сін**.: у тры шыі. *«Такіх лукашэвічаў у нашай працоўнай сям'і не трэба. Іх трэба гнаць у шыю». От што вы пішаце.* Чорны. *Ён цяпер дакарае сябе за неабдуманы ўчынак. Зрэшты, чаму ён паехаў? Хто гоніць яго ў шыю?* Навуменка. *[Гаворка:] Што ж ты маўчыш? Па законах дружбы, трэба гнаць у шыю такога нахабніка, як я.* Шамякін. *Зрэшты, не гнала ў карак і нічога не казала пра гэтыя пярэбары занятая нейкім сваім таемным клопатам пані Анця.* Адамчык. *— Адпачні, Пятрок! — кажа дзядзька. — Нас ніхто ў карак не гоніць! Як сёння не паспеем, то заўтра дзень будзе...* «Маладосць». *Гатавала яна [загадчыца] нясмачна. Маўляў, усё з'есца, і на руку нячыстая была. «Гнаць яе трэба ў каршэнь», — вырашыла Алена.* Левановіч. *Заўжды неадкладныя справы гоняць у каршэнь: хутчэй, не затрымлівайся, спяшайся!* Новікаў.

**ШУКАЦЬ САБЕ ПЯТЛІ <НА ШЫЮ>.** Гл. шукаць.

*ШЭЛЕГ* ● **НА Ш`ЭЛЕГ.** *Акал. Разм.* **1**. Зусім мала (чаго-н.). **Сін**.: з верабёў нос (у 1 знач.); з жабіны прыгаршчы *чаго*; з камароў нос (у 1 знач.); з макава зерне; кропля ў моры <*чаго*>; курам на смех (у 3 знач.); на жабін скок (у 2 знач.); на заячы скок; на капейку; на макава зерне; па пальцах можна пералічыць *каго, што*; на панюх табакі (у 1 знач.); не поле насеяна *каго*; раз-два і ўсё *каго, чаго*; як кату; <як> кот наплакаў *каго, чаго*; як старой бабе сесці *чаго. [Кліменці:] Дапяць да караля? Вось я дапяў, карысці пакуль што на шэлег.* Клімковіч.

**2**. *Ужыв. ў адмоўн. ск.* Нікольki, зусім (няма, не верыць і пад.). **Сін**.: на волас (у 2 знач.); на <ломаны> грош; на макулінку (у 2 знач.); на мезены палец; на панюх табакі (у 2 знач.); на сіні пазногаць (у 2 знач.); ні божа мой; ні грама; ні каліва; ні кроплі; ні на <адзін> шэлег

(у 1 знач.); ні на волас; ні на грам (у 1 знач.); ні на гран; ні на грош; ні на ёту; ні на каліва; ні на кроплю; ні на макава зерне; ні на макулінку. *Няма куды мне ад цябе ісці. Не таму, што кахаю — кахання ў мяне якраз і на шэлег няма, — а таму што ўсё адно.* Караткевіч.

**НІ (АНІ) НА <АДЗ`ІН> Ш`ЭЛЕГ.** *Разм.* **1**. *Акал. Ужыв. ў адмоўн. ск.* Нікольki, зусім (не мець, не псаваць і пад.). **Сін**.: на волас (у 2 знач.); на <ломаны> грош; на макулінку (у 2 знач.); на мезены палец; на панюх табакі (у 2 знач.); на сіні пазногаць (у 2 знач.); на шэлег (у 2 знач.); ні божа мой; ні грама; ні каліва; ні кроплі; ні на волас; ні на грам (у 1 знач.); ні на гран; ні на грош; ні на ёту; ні на каліва; ні на кроплю; ні на макава зерне; ні на макулінку. *А колькі разоў, бывала, лаяліся яны. Бацюшка Сцяпана, Сцяпан бацюшку. І гэта ні на адзін шэлег не псавала іх крэпкую, вякамі гадаваную дружбу.* Колас.

**2**. *чаго. У безас. ужыв.* Зусім няма. Пра поўную адсутнасць чаго-н. **Сін**.: ні на грам (у 2 знач.); ні на капейку *чаго*; ні на ломаны грош *чаго. [Андрэй] і сам ведаў, што мэтанакіраванасці ў ім ані на шэлег, што гэта нікому не можа падабацца.* Караткевіч.

*ШЭПЧУЦЬ* ● **І КУРЫ НЕ ШЭПЧУЦЬ** *пра каго.* Гл. куры.

*ШЭРАГАХ* ● **У ПЕРШЫХ ШЭРАГАХ** *каго, чаго.* Гл. радах.

*ШЭРАГУ* ● **У Ш`ЭРАГУ (У РАДЗЕ)** *каго, чаго. У знач. прыназоўніка. Функц. не зам.* Сярод каго-, чаго-н. (быць, стаяць, займаць месца і пад.). *Можна назваць т. т. Краўчанку, Ермаловіча, Пінчука, Туманскага, Шаўцова як такіх маладых пісьменнікаў, якія ў шэрагу пачынаючых стаяць ужо даволі высока.* Чорны. *Вось стаіць ён, выцягнуўшыся «ва фрунт», у шэрагу такіх жа запалоханых навабранцаў...* Іпатава. *Кніга.. «Сучасная беларуская паэзія» стаіць у радзе тых даследаванняў шырокага манаграфічнага плана, якія паявіліся ў беларускім літаратуразнаўстве крыху раней і прысвечаны празаічным жанрам — апавяданню, аповесці і раману.* «ЛіМ».

*ШЭРАЯ* ● **ШЭРАЯ ГАДЗІНА.** Гл. гадзіна.

*ШЭРСЦІ* ● **ГЛАДЗІЦЬ ПА ШЭРСЦІ** *каго.* Гл. гладзіць.

**ГЛАДЗІЦЬ СУПРАЦЬ ШЭРСЦІ** *каго.* Гл. гладзіць.

**С`УПРАЦЬ (СУПР`ОЦЬ) Ш`ЭРСЦІ.** *Акал. Разм.* Не так, як каму-н. хочацца; наперакор каму-н. (рабіць што-н.). *[Пані Барбара] зрабілася дужа скупая і сварлівая, слова супроць шэрсці не скажы.* Гарэцкі. *Што з табою сёння? Усё напоперак, усё супраць шэрсці.* Пальчэўскі. *Прывыклі, каб усе іх хвалілі. А калі супраць шэрсці?* Кузьмянкоў.

*ШЭРХНЕ* ● **СК`УРА Ш`ЭРХНЕ** *на кім, у каго.* Гл. скура.

## Э

*ЭГІДАЙ* ● **ПАД ЭГ`ІДАЙ** *чыёй, каго, чаго. Акал. Кніжн.* Пад прыкрыццем каго-, чаго-н., пад чыёй-н. аховай, заступніцтвам ці кіраўніцтвам (рабіць што-н.). *Дагаварыўся [прафесар-славянафіл], урэшце, да таго, што толькі пад эгідай моцнага славянін адчувае раскошу і замілаванне.* Караткевіч. *Яшчэ з вясны сам [Лазар] напрасіўся стварыць пад эгідай аграпрамысловага аб'яднання міжгаспадарчы атрад лятучай уборкі траў і хуткага запаўнення сянажных вежаў.* Якавенка.

*ЭЗОПАВА* ● **ЭЗОПАВА МОВА.** Гл. мова.

*ЭЗОПАЎСКАЯ* ● **ЭЗОПАЎСКАЯ МОВА.** Гл. мова.

*ЭМПІРЭЯХ* ● **ЛУНАЦЬ У ЭМПІРЭЯХ.** Гл. лунаць.

*ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ* ● **ХАДЗ`ЯЧАЯ ЭНЦЫКЛАП`ЕДЫЯ.** *Мн. не ўжыв. Часцей ў знач. вык. Функц. не зам. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Чалавек, які валодае самымі разнастайнымі ведамі. *Гэты С. — хадзячая энцыклапедыя. Пра ўсё, чорт, знае.* Танк. *Ігар Самалец, хадзячая энцыклапедыя, як дражнілі яго студэнты, працаваў у інстытуце нафты і газу.* Асіпенка. *Алеська, ты мой Алеська!.. А хіба мог ён пагадзіцца з чужынцамі, калі так даражыў сваім? Не мог і замкнуцца ў сабе — ён жа энцыклапедыя хадзячая.* Карпаў.

*ЭТАПУ* ● **ПА ЭТ`АПУ.** *Акал. Функц. не зам.* Пад канвоем (ісці, гнаць, весці і пад.). Пра перасылку арыштантаў. *А вунь там... жыве ўдава. У яе трое сыноў. Двух асудзілі, і яны пайшлі па этапу ў Сібір.* Хомчанка. *Яшчэ падлеткам я хацеў уцячы да Саветаў. Злавілі ля граніцы. Далі прачуханку і па этапу прыгналі дамоў.* Левановіч.

## Ю

*ЮДАЎ* ● **ЮДАЎ ПАЦАЛУНАК.** Гл. пацалунак.

*ЮДЫ* ● **ПАЦАЛУНАК ЮДЫ.** Гл. пацалунак.

*ЮР'ЕЎ* ● **ВОСЬ ТАБЕ <БАБКА> І ЮР'ЕЎ ДЗЕНЬ!** Гл. вось.

*ЮРКУ* ● **НЕ ПА ЮРКУ ШАПКА** <*для каго*>. Гл. шапка.

*ЮШКА* ● **ДЗЯМ'ЯНАВА `ЮШКА.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Тое, што назойліва прапануецца каму-н. у вялікай колькасці. *Заставілі і пельмені есці. Смехата. Я іх туды, а яны — назад. Дзям'янава юшка.* «Полымя».

## Я

*Я* ● **АД А ДА Я.** Гл. а.

**К`АБ `Я З Г`ЭТАГА М`ЕСЦА НЕ СЫШ`ОЎ (НЕ ЎСТ`АЎ).** *Выкл. Праст.* Клятвеннае запэўненне ў чым-н. **Сін**.: адсохні мне язык; каб я <так> жыў; не сысці мне з гэтага месца; праваліцца мне на гэтым

месцы. А *што я ўчора стаяў і вы думаеце, што я падслухоўваў, то каб я з гэтага месца не сышоў, што не.* Чорны. *Калі я ілгу, каб я з гэтага месца не сышла.* Гурскі. *Віктар.. стукаў па стале кулаком. — Я яго заб'ю. Далібог, заб'ю! Каб вот з гэтага месца не ўстаў, што заб'ю!* Лобан. *Я зірнуў [Грышу] у вочы: «Хлусіш ты. Пашкадуеш... Не прынясеш». Ён пастукаў сабе кулаком у грудзі, пакляўся: — Каб я з гэтага месца не ўстаў, калі не прынясу.* М.Капыловіч.

**К`АБ `Я <Т`АК> Ж`ЫЎ.** *Выкл. Праст.* Клятвеннае запэўненне ў чым-н. **Сін**.: адсохні мне язык; каб я з гэтага месца не сышоў; не сысці мне з гэтага месца; праваліцца мне на гэтым месцы. — *Нашто казаць, калі ты мяне адразу пазнаў. — Дальбог, не пазнаў. — Хлусіш. —Каб я так жыў. Цяпер пачынаю пазнаваць.* Чорны. *Так прад жонкай спавядаўся пасля выпіўкі Тарас: — Ну, на гэты раз павер мне — каб я жыў — апошні раз!* Колас. *[Лабыш:] І колькі ж пасагу ён дае табе? [Лявон:] Ён жа не захоча пакрыўдзіць сваёй дачкі — дзесяцін нейкіх дзесяць павінен даць. [Лабыш:] Маніш. [Лявон:] Каб я так жыў, праўда.* Козел.

**КАГ`О `Я Б`АЧУ!** *Выкл. Разм.* Вокліч здзіўлення, радасці ад нечаканай сустрэчы з кім-н. *[Галіна Аркадзьеўна:] А-а! Каго я бачу! Вось сапраўды, на лаўца і звер бяжыць. Я вас, Захар Мінавіч, цэлы дзень сёння шукала... Ды дзе там!* Шамякін. *Міця.. падскочыў і раскінуў рукі: «Каго я бачу?! Стасюк! Дарожны бог, ах каб на цябе дым..* Вышынскі. *Каго я бачу? Нінычка, вечар добры! Вечар добры ўжо тым, што сцежкі нашы на міг сышліся...* Бондар.

**НЕ `Я Б`УДУ,** <u>калі.</u> *У знач. галоўн. ск. Праст. Ужыв. перад умоўным злучнікам.* Інакш быць не можа (калі...). Клятвеннае запэўненне зрабіць здзейсніць што-н. **Сін**.: жыў не буду. *Астрожнікі! Зладзеі. Не я буду, калі іх у астрог не засаджу. У вышэйшы суд падам.* Крапіва. — *Гэта зроблена хуліганскаю рукою. — Не я буду, калі не ўлаўлю іх за гэтую руку.* Мурашка. — *Не я буду, калі гэтых канькоў не стрыножу, — пагразіўся Валянцін.* Б.Стральцоў.

**ШТ`О ТО `Я.** *Часцей вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ганарысты, фанабэрысты. *[Стэфа:] Дажыўся чалавек! Жонка кінула, дзеці адракліся! Ды і яна не лепшая! Што то я! Такая цаца!* Чарнышэвіч. *Я яго прашу — інстытут, а ён мне — курсы! Нябось, каб захацеў, зараз уладзіў бы... Не хоча! Бач, што то я...* Грамовіч.

*ЯБЛЫК* ● **АД`АМАЎ `ЯБЛЫК.** *Мн. не ўжыв. Дзейн. і вык. Разм.* Цвёрды выступ на горле ў мужчыны; кадык. *Твар у Андрэя быў спакойны. Толькі хадзіў пад скурай адамаў яблык.* Караткевіч. *Жандар.. задраў галаву... Не ў меру выпучан гарляк — яго «адамаў яблык».* Баранавых.

<u>*Збіць, стаўчы*</u> **НА Г`ОРКІ `ЯБЛЫК.** *Акал. Звычайна ўжыв. пры дзеясл зак. тр. Разм.* Вельмі моцна, бязлітасна. **Сін**.: да жывога (у 2 знач.); да паўсмерці; на порхаўку, як сідараву казу. *[Сашка:] Я мог бы шмат табе аб ім сказаць, ды ён саб'е мяне на горкі яблык.* Глебка. *Тут і падскочыў гаспадар і бічом ад цэпа збіў парабка на горкі яблык.* Паўлаў. *Сяргея, майго асцярожнага, прадбачлівага Сяргея збілі на горкі яблык нейкія хуліганы.* Іпатава. *Каб я была на яго месцы — я б забіла цябе. Альбо стаўкла на горкі яблык!* Савіцкі. *Я ц-цябе стаўку на г-горкі яблык, м-можаш быць п-пэўны*! Карпюк.

**`ЯБЛЫК РАЗЛ`АДУ.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Прычына спрэчкі, сваркі. *На атамных, на ядзерных круках падвешаная ў прорву зарападу, планета наша ні ў чыіх руках быць не павінна яблыкам разладу!* Барадулін. *З яблыка разладу гервяцкі «астравок» ператварыўся, як пісаў у вершы адзін з мясцовых пачынаючых паэтаў, у «бастыён дружбы».* Мальдзіс. *Не верылася, што своеасаблівым яблыкам разладу ў сям'і стаў жэньшэнь — расліна рэдкая для нашых мясцін.* «Звязда».

*ЯБЛЫКІ* ● **У `ЯБЛЫКІ (-АХ).** *Азн. Разм.* З цёмнымі круглымі плямамі на поўсці. Пра каня. *Нарэшце Міколаў дзядзька, матчын брат, які прыехаў нанач, вывеў пад калодзеж сівую ў яблыкі кабылу.* Крапіва. *Захроп уперадзе Боганчыкаў сівы, у яблыкі, жарабок, пачуўшы, мусіць, ваду, і забразгаў цуглямі.* Пташнікаў. *Каля самага пад'езда нецярпліва таптаўся сыты ў яблыках конь, запрэжаны ў лёгкую таратайку.* Карпаў. *Увесь у яблыках гняды аж шалеў ад застою.* Карпюк.

*ЯБЛЫКУ* ● **ЯБЛЫКУ НЯМА ДЗЕ ЎПАСЦІ.** Гл. упасці.

*ЯБЛЫЧАК* ● **ПАЦЭЛІЦЬ У <САМЫ> ЯБЛЫЧАК.** Гл. пацэліць.

*ЯГАДА* ● **АДНАГ`О П`ОЛЯ `ЯГАДА (-Ы, -КА, -КІ).** *Вык. Разм. Часцей неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі падобныя адзін на аднаго ў якіх-н. адносінах. **Сін**.: абое рабое; аднаго крою; адным лыкам шытыя; адным мірам мазаны; два боты пара; <з> аднаго балота чэрці; з аднаго цеста <спечаны>; зроблены на адзін капыл; на адзін капыл (у 1 знач.); на адзін лад; на адзін манер (у 1 знач.). **Ант**.: з іншага цеста <спечаны>; не з такога цеста зроблены. «*Штрафаваць такіх трэба, судом судзіць! — з пагардай падумала Надзя і схамянулася: — Дык жа сама цяпер аднаго поля ягада...* Аношкін. *Толькі паступова, пад уплывам гутарак з Лабановічам Каль пачынае разумець, што цар і ўсе яго слугі — аднаго поля ягады...* Шкраба. — *Дык вы, Харытонавіч, таксама сувязіст? З Мясаедавым аднаго поля ягадка? — ускліквае Гусак.* Радкевіч. — *І Мар'яна, і ты, маці, — аднаго поля ягадкі! — казаў злосна Мікола.* Бядуля.

**НЕ Н`АШАГА П`ОЛЯ `ЯГАДА (-Ы).** *Вык. Разм. Неадабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Не раўня каму-н., зусім чужы (па становішчы, паводзінах, духу і пад.). *[Сакратар] граматны вельмі, не інакш. Граматны. Канешне. Не нашага поля ягада...* Мележ. *[Праксэда:] Завельмі пачала хваліць гэтых галадранцаў... [Кася:] Што дрэннага, мама, убачыла ў іх? [Праксэда:] Не нашага поля ягады. Недавяркі.* Галубок. *Бацька заўсёды ўталкоўваў яму адну ісціну: шапку выбірай па сваёй галаве. «Усе граматныя і багатыя — не нашага поля ягады».* Цяжкі.

*ЯГО* ● **АГОНЬ ЯГО ВЕДАЕ.** Гл. агонь.

**АЛАХ ЯГО ВЕДАЕ.** Гл. алах.

**АНУ ЯГО К ЛІХУ.** Гл ліху.

**АНУ ЯГО К ЧОРТУ.** Гл. чорту.

**БОГ ЯГО ВЕДАЕ.** Гл. бог.

**ВЯТРЫ ЯГО ВЕДАЮЦЬ.** Гл. вятры.

**КАБ НА ЯГО ЛІХА.** Гл. ліха.

**КАДУК НА ЯГО.** Гл. кадук.

**КАДУК ЯГО ВАЗЬМІ.** Гл. кадук.

**КАДУК ЯГО ВЕДАЕ.** Гл кадук.

**ЛІХА НА ЯГО.** Гл. ліха

**ЛІХА ЯГО БЯРЫ.** Гл. ліха.

**ЛІХА ЯГО ВЕДАЕ.** Гл. ліха.

**ЛІХА ЯГО ГАЛАВЕ.** Гл. ліха.

**НЕМАЧ ЯГО ВЕДАЕ.** Гл. немач.

**НУ ЯГО К МАНАХАМ.** Гл. манахам.

**НЯЧЫСЦІК ЯГО ВЕДАЕ.** Гл нячысцік.

**ПЯРУН ЯГО ВЕДАЕ.** Гл. пярун.

**ТАК ЯГО!** Гл. так.

**ЧАМЯРЫЦА ЯГО ВЕДАЕ.** Гл. чамярыца.

*ЯДУЦЬ* ● **ЯДУЦЬ МУХІ З КАМАРАМІ** *каго.* Гл. мухі.

*ЯЕ* ● **ТАК ЯЕ!** Гл. так.

*ЯЕЧКА* ● **Я`ЕЧКА З ГАЛАВ`Ы НЕ СК`ОЦІЦЦА.** *Акал. Разм. Адабр. і неадабр.* Часцей ужыв. пры дзеясл. *ісці, хадзіць.* Вельмі стройна, роўна. *[Цімох:] Халацік беленькі, а сама, браце мой, ідзе — яечка з галавы не скоціцца.* Брыль.

**ЯК Я`ЕЧКА.** *Вык. Разм. Адабр.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Вельмі добры, цудоўны. **Сін**.: адным словам[1]; без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); будзь-будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); кругом сто дваццаць; на славу (у 2 знач.); на ўсе рукі; на ўсе

сто (у 3 знач.); на яць (у 2 знач.); па крайняй меры (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога; першай гільдыі (у 1 знач.); першы клас; першы сорт; разлюлі-маліна (у 1 знач.); рэдкай рукі; слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.). *Тыдзень часу, і грэбля была б як яечка.* Колас. *Бёрны.. да таго ўдала падагналі адно да аднаго цесляры, што загадзя можна было сказаць: варывенька атрымаецца як яечка.* Макарэвіч.

*ЯЕЧКАМ* ● **КАЦІСЯ ЯЕЧКАМ.** Гл. каціся.

*ЯЕЧКУ* ● **НЕ Ў ЯЕЧКУ ПІШЧЫЦЬ.** Гл. пішчыць.

*ЯЕШНЯЙ* ● **БОЖЫ ДАР З ЯЕШНЯЙ.** Гл. дар.

*ЯЗЫК* ● **АДСОХНІ МНЕ ЯЗЫК.** Гл. адсохні.

**БІЦЬ ЯЗЫК АБ ЗУБЫ.** Гл. біць.

**БОЙКІ НА ЯЗЫК.** Гл. бойкі.

**БРАЦЬ НА ЯЗЫК** *каго.* Гл. браць.

**ВОСТРЫ НА ЯЗЫК.** Гл. востры.

**В`ОСТРЫ ЯЗ`ЫК (ЯЗЫЧ`ОК)** *у каго. У безас. ужыв. Разм. Часцей адабр.* Хто-н. дасціпны, з’едлівы ў размове. **Сін.**: язык як брытва (у 2 знач.). — *Хацелася б, каб іх [адмоўных якасцей] у вас было як найменей. — І мне таксама хацелася б гэтага. — У вас востры язык, — стрэліла ў мяне пранізлівым позіркам Мальвіна Ягораўна.* Васілёнак. *Востры язычок у дачушкі, нічога не скажаш.* Дайнека.

**ВЫСАЛАПІЎШЫ ЯЗЫК.** Гл. высалапіўшы.

**ВЫСАЛАПІЦЬ ЯЗЫК.** Гл. высалапіць.

**Д`ОЎГІ (ДАЎГ`І) ЯЗ`ЫК.** *Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Разм. Неадабр.* Балбатлівасць, схільнасць гаварыць лішняе, няўменне захоўваць тайну. *Жэньку за доўгі язык на цэлы дзень пазбавілі права хадзіць з намі ў руіны на тол, прымусілі не выходзіць за межы двара...* Караткевіч. *Мабыць, з-за свайго доўгага языка [Дворнік] не пайшоў угору па службовай сцяжыне, засеў у радавых супрацоўніках.* А.Жук. *Знае ён усё на свеце, вестак больш, як у газеце... Бо даўгі яго язык да спакою не прывык.* Крапіва. *Калі табе што-небудзь даверана, то яно ў табе павінна і памерці. Усе правалы падполля з-за доўгіх языкоў.* Лобан.

**К`АБ ЯЗ`ЫК АДС`ОХ** *каму. Выкл. Праст.* Вокліч абурэння, асуджэння таго, хто сказаў што-н. непрымальнае. — *Дзякуй богу, што пачуў малітву! Пачуў і заступіўся... — Бог? А знаеце, дзе ён цяпер? — Дзе? — У Нароўлі ў валасці! За сакратара! — Каб табе язык адсох! За такія твае словы...* Мележ. *Мой чалавек неяк пазаўчора кажа мне: «Звязвай, Маланння, клункі, бо не здабраваць нам — немцы прыедуць паліць». А я яму кулаком у спіну: «Каб табе язык адсох за твае словы!»*

М.Капыловіч.

**ЛЕЗЦІ НА ЯЗЫК** *каму.* Гл. лезці.

**ЛЁГКІ НА ЯЗЫК.** Гл. лёгкі.

**МАЗОЛІЦЬ ЯЗЫК.** Гл. мазоліць.

**МОЖНА ЯЗЫК ЗЛАМАЦЬ.** Гл. можна.

**НАМАЗОЛІЦЬ ЯЗЫК.** Гл. намазоліць.

**НАСТУПАЦЬ НА ЯЗЫК** *каму.* Гл. наступаць.

**НАСТУПАЦЬ САБЕ НА ЯЗЫК.** Гл. цаступаць.

**ПАДЫМАЦЬ НА ЯЗЫК** *каго, што.* Гл. падымаць.

**ПАД ЯЗ`ЫК** *танцаваць, скакаць, гуляць.* *Акал. Разм.* Без музыкі, падпяваючы голасам. *[Паўлінка:] Значыцца, будзем гуляць пад язык.* Купала. *Бывала, прызначым рэпетыцыю, а ён [выкладчык спеваў] і не прыйдзе; танцуем тады пад язык.* Левановіч. *Жанкі спявалі песні і скакалі «пад язык» да глыбокай ночы.* Васілевіч.

**ПАПАДАЦЬ НА ЯЗЫК** *каму.* Гл. пападаць.

**ПАЦЯГНУЛА ЗА ЯЗЫК** *каго.* Гл. пацягнула.

**ПРАГЛЫНУЦЬ ЯЗЫК.** Гл. праглынуць.

**ПРОСІЦЦА НА ЯЗЫК.** Гл. просіцца.

**ПРЫКУСВАЦЬ ЯЗЫК.** Гл. прыкусваць.

**ПРЫТРЫМЛІВАЦЬ ЯЗЫК.** Гл прытрымліваць.

**ПРЫХОДЗІЦЬ НА ЯЗЫК** *каму.* Гл. прыходзіць.

**ПРЫШЧАМІЦЬ ЯЗЫК.** Гл. прышчаміць.

**РАЗВЯЗВАЦЬ ЯЗЫК.** Гл. развязваць.

**РАСПУСКАЦЬ ЯЗЫК.** Гл. распускаць.

**СЛАБЫ НА ЯЗЫК.** Гл. слабы.

**ТРАПЛЯЦЦА НА ЯЗЫК** *каму.* Гл. пападаць.

**ТРЫМАЦЬ ЗА ЯЗЫК** *каго.* Гл. трымаць.

**ТРЫМАЦЬ ЯЗЫК ЗА ЗУБАМІ.** Гл. трымаць.

**ТРЫМАЦЬ ЯЗЫК НА ЗАМКУ.** Гл. трымаць.

**ТРЫМАЦЬ ЯЗЫК НА ПРЫВЯЗІ.** Гл. трымаць.

**УЗБРЫСЦІ НА ЯЗЫК** *каму.* Гл. узбрысці.

**УКАРАЦІЦЬ ЯЗЫК** *каму.* Гл. укараціць.

**УТЫКАЦЬ ЯЗЫК** *у што, куды.* Гл. утыкаць.

**Ц`ЕШЧЫН ЯЗ`ЫК.** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм. Іран.* Круты і небяспечны паварот на дарозе. *Не аббяжыш паварот той вачыма, хоць да скрыготаў напружвай бялкі. «Цешчын язык» — так жартуюць мужчыны, «зяцеў гарляк» — так жартуюць жанкі.* Камейша. *Чарнявы вадзіцель да трасы прывык, ёсць «асы» свае на зямлі і на моры. Круты паварот — гэта «цешчын язык», яго гэтак трапна назвалі шафёры!* «ЛіМ».

**ЦІПУН НА ЯЗЫК** *каму.* Гл. ціпун.

**ЦЯГНУЦЬ ЗА ЯЗЫК** *каго.* Гл. цягнуць.
**ЦЯЛЯ ЯЗЫК АДЖАВАЛА** *каму.* Гл. цяля.
**ЧАСАЦЬ ЯЗЫК.** Гл. часаць.
**ЧАСАЦЬ ЯЗЫКОМ .** Гл. часаць.
**ЧОРТ ПАЦЯГНУЎ ЗА ЯЗЫК** *каго.* Гл. чорт.
**ЧОРТ ЦЯГНУЎ ЗА ЯЗЫК** *каго. Гл.* чорт.
**ШТО СЛІНА НА ЯЗЫК ПРЫНЯСЕ.** Гл. сліна.

**ЯЗ`ЫК АДН`ЯЎСЯ** *ў каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. раптоўна змоўк, страціў здольнасць гаварыць (ад страху, здзіўлення і пад.). **Сін**.: цяля язык аджавала *каму*; язык да зубоў прымёрз *у каго*; язык прысох <да зубоў> *у каго, каму. Тут у Міколы і язык адняўся. Ён баяўся зірнуць у акно, бо быў упэўнены, што ў акне ўжо тырчыць страшная галава.* Колас. *Хацеў я вылаяць Закрутку, а сказаў ён мне гэтыя словы — і язык у мяне адняўся.* Сачанка.

**ЯЗ`ЫК БЕЗ КАСЦ`ЕЙ** *у каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. вельмі балбатлівы, гаворыць лішняе. **Сін**.: жаба на языку не спячэцца *ў каго*; рот <ніколі> не закрываецца *ў каго*; слабы на язык; язык доўгі *ў каго*; язык каля вушэй матляецца *ў каго*; язык меле *чый*; язык па-за вушамі ходзіць *у каго. У Юлі язык без касцей, вось яна і плявузгае абы-што, псуе нервы і сабе, і яму, Цімоху...* І.Капыловіч. *Палажка ўздыхнула: — У каго язык без касцей, хай што хоча меле...* «Полымя». – *Што ты мелеш?... Язык у цябе без касцей...* «Маладосць».

**ЯЗ`ЫК БЛ`ЫТАЕЦЦА (БЛ`ЫТАЎСЯ)** *у каго, каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. не можа выразна гаварыць, сказаць што-н. **Сін**.: язык заплятаецца *ў каго. Хутка язык пачынаў блытацца, і поп плёў абы-што.* Галавач. *І вось язык Пачулія пачаў блытацца, маслінавыя вочы затуманіліся, і, нарэшце, ён абняў Сімона за шыю.* Самуйлёнак. *[Аляксей] нешта мямліў, ненавідзячы сябе, пра цяжкае матэрыяльнае становішча, пра жаніцьбу, і язык блытаўся. Дзе яго і красамоўства падзелася!* Місько.

**ЯЗ`ЫК ГЛ`АДКА Х`ОДЗІЦЬ** *у каго, чый. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. умее свабодна, лёгка і прыгожа гаварыць. **Сін**.: язык добра падвешаны *ў каго*; язык на шарнірах *у каго.* **Ант**.: язык дрэнна падвешаны *ў каго. Чытаць, пісаць я не умею, не ходзіць гладка мой язык, бо толькі вечна ару, сею, — бо я мужык, дурны мужык.* Купала. *І зноў [Бдунікаў] засмяяўся — яму яўна падабалася, што сёння ў яго гладка ходзіць язык.* Кудраўцаў. *— А я што? Лыкам шыты? — Язык у цябе гладка ходзіць, — усміхнуўся Якуб Колас.* «Полымя».

**ЯЗ`ЫК ДА ЗУБ`ОЎ ПРЫМ`ЁРЗ** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. раптоўна страціў здольнасць гаварыць. **Сін**.: цяля язык аджавала *каму*; язык адняўся *ў каго*; язык прысох <да зубоў> *у каго, каму.*

*[Даша:] Калі ж як убачыла я, як яна сырыя смалякі пёрла дамоў, дык і язык да зубоў прымёрз — слова вымавіць не змагла.* Козел. *[Старшыня:] Хіба не бачыў, што тут балота? Ды балота ж, глядзі ты! Дрыгва, самая сапраўдная... Язык да зубоў прымёрз, адказвай!* Дзятлаў. *[Мікола:] Выдзірае яна з кішэняў пляшкі, а я стаю, і язык у мяне да зубоў прымёрз.* Шлег.

**ЯЗ`ЫК Д`ОБРА ПАДВ`ЕШАНЫ** *ў каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. умее свабодна, лёгка і прыгожа гаварыць. **Сін**.: язык гладка ходзіць *у каго, чый*; язык на шарнірах *у каго.* **Ант**.: язык дрэнна падвешаны *ў каго. А ў нас тады быў Дробыш. Язык у яго падвешаны добра.* Васілевіч. *Генка Навіцкі.. не стаў бы асабліва хваляваццa. Язык добра падвешаны. І тэму б для размовы знайшоў, і пра нафту беларускую, і анекдоты расказаў бы салёненькія.* Каршукоў. *І порсткі хлопец, і язык падвешаны, і з выгляду ён фацэтны...* Кажадуб.

**ЯЗ`ЫК Д`ОЎГІ** *ў каго. Адз. і мн. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. занадта балбатлівы, не ўмее стрымліваць сябе ў размове ці захоўваць тайну. **Сін**.: жаба на языку не спячэцца *ў каго*; рот <ніколі> не закрываецца *ў каго*; слабы на язык; язык без касцей *у каго*; язык каля вушэй матляецца *ў каго*; язык меле *чый*; язык па-за вушамі ходзіць *у каго. Язык у мяне доўгі, гэта праўда. Можа, што лішняе сказала.* Чарнышэвіч. *— Я пажартаваў, што ў цябе язык доўгі, не крыўдзіся, — гаварыў брат.* Арабей. *Быць не можа, каб хто не бачыў, як [Андрэй] пхаўся ўночы з лесу. А языкі ў людзей доўгія.* Колас. *У людзей языкі доўгія: скажуць — Яначка зямлі адрокся. У фонд зямлю забяруць. А хлеба ж табе фонд не дасць.* Крапіва.

**ЯЗ`ЫК ДР`ЭННА (К`ЕПСКА) ПАДВ`ЕШАНЫ** *ў каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. не ўмее свабодна, лёгка і прыгожа гаварыць. **Ант**.: язык гладка ходзіць *у каго*; язык добра падвешаны *ў каго*; язык на шарнірах *у каго. Натура ў яго ого якая, толькі вот язык дрэнна падвешаны.* Юрчанка. *А што гэта за дацэнт, у якога язык кепска падвешаны?..* Радкевіч.

**ЯЗЫК ЗАВЯЗАЦЬ** *каму.* Гл. завязаць.

**ЯЗ`ЫК ЗАПЛЯТ`АЕЦЦА (ЗАПЛЯТ`АЎСЯ)** *у каго, чый. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. не можа выразна гаварыць, сказаць што-н. **Сін**.: язык блытаецца *ў каго. У брыгадзіра заплятаецца язык, так.* «Маладосць». *За сталом, як рой перад адлётам, гула бяседа. У таго-сяго ўжо заплятаўся язык.* Адамчык. *Язык у Шэрага заплятаўся, яго нават крыху вадзіла ў бакі.* Кацюшэнка. *Хіба было хоць раз, што мой язык заплятаўся ці хадзіў я няроўна?* Марціновіч.

**ЯЗЫК ЗЛОМІШ.** Гл. зломіш.

**ЯЗ`ЫК КАЛ`Я (ЛЯ) ВУШ`ЭЙ МАТЛ`ЯЕЦЦА** *ў каго. У безас. ужыв.*

*Разм. Неадабр.* Хто-н. празмерна балбатлівы, гаворыць многа лішняга. **Сін**.: жаба на языку не спячэцца *ў каго*; рот <ніколі> не закрываецца у *каго*; слабы на язык; язык без касцей *у каго*; язык доўгі *ў каго*; язык меле *чый*; язык па-за вушамі ходзіць *у каго. [Яўхім:] Жаба ты малая, бачыў ты, ці ён там нагу адстаўляў, ці язык высалапляў! Язык у цябе каля вушэй матляецца.* Чорны. *[Паўліна:] Дзялі, сват, дзялі, толькі лініі не скрыві, а то мы цябе ведаем. [Пытляваны:] Мы сваю лінію выпраўляем, а ў старшай дружкі як матляўся язык ля вушэй, так і цяпер матляецца.* Крапіва.

**ЯЗ`ЫК М`ЕЛЕ (МАЛ`ОЎ)** *чый. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. гаворыць пустое, пустасловіць. **Сін**.: жаба на языку не спячэцца *ў каго*; рот <ніколі> не закрываецца *ў каго*; слабы на язык; язык без касцей *у каго*; язык доўгі *ў каго*; язык каля вушэй матляецца *ў каго*; язык па-за вушамі ходзіць *у каго. [Куторга:] Найяснейшая карона! Бойцеся бога, не губіце беднага чалавека! Мала што язык малоў, — добра прыказка кажа: млын меле — мука будзе, язык меле — бяда будзе. Выбачайце майму дуру!* Дунін-Марцінкевіч. *А калі гэта толькі бабскі язык меле, дык няма чаго з дзіцяці рабіць злодзея.* Васілевіч. *Ну што твой язык меле? Кажаш, а слухаць няма чаго. Абы толькі.* Янкоўскі.

**ЯЗ`ЫК НА ПЛЯЧ`О.** *У знач. акал. Разм.* Часцей ужыв. пры дзеясл. *хадзіць, ісці* і пад. Не праяўляючы актыўнасці. — *І твой старшыня сельсавета, як відаць, ходзіць — язык на плячо. — Сам ён хлопец, сказаць, не дрэнны, але склад сельсавета нікуды не варты.* Крапіва. [*Янкоўскі*, 426: язык на плячо – 'спяшаючыся' і 'знясіліцца'.] [*Янкоўскі*, 426: язык на плячо – 'спяшаючыся' і 'знясіліцца'.]

**ЯЗ`ЫК НА ШАРН`ІРАХ** *у каго. У безас. ужыв. Разм. Часцей адабр.* Хто-н. умее свабодна, гладка, добра гаварыць. **Сін**.: язык гладка ходзіць *у каго, чый*; язык добра падвешаны *ў каго.* **Ант**.: язык дрэнна падвешаны *ў каго. —Маўклівы я. Прамоў гаварыць не ўмею. — Па-твойму, толькі той добры кіраўнік, у каго язык на шарнірах?* Шамякін. *—Спытаем? — Давай. — Лепей ты, у цябе язык на шарнірах.* Дзятлаў.

**ЯЗ`ЫК НЕ АДВ`АЛІЦЦА** *ў каго. У безас. ужыв. Разм.* Нічога не зробіцца з кім-н., калі скажа што-н., папросіць, запытае і пад. *Адчапіся, унуча, з гэтым сваім богам! Ці я вучоны чалавек, каб ведаць, што гэта такое за стварэнне... А калі маці цябе маліцца прымушае, дык ты і памаліся, язык жа ў цябе не адваліцца...* Лынькоў. *Адным словам, гэтыя двое нічога не маглі ведаць пра Віцю, але ж спытаць — язык не адваліцца.* Сіняўскі. *[Анцюк] Вольчынаму насыпаў яблыкаў повен прыпол. Толькі сказаў напаследак: «Бяры і еш, а сам не лезь!*

*Папрасіць язык не адваліцца!»* Гіль.

**ЯЗ`ЫК НЕ ПАВАР`ОЧВАЕЦЦА (НЕ ПАВЯРН`УЎСЯ, НЕ ПАВ`ЕРНЕЦЦА)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. баіцца, не адважваецца, саромеецца ці не мае ахвоты (сказаць, запытаць і пад.). **Сін**.: язык не слухае *<каго>. [Пытляваны:] Ды яно як быццам і належыць дзякаваць. Толькі нешта язык не паварочваецца.* Крапіва. *Схлусіць, што Люся тут ні пры чым, — у мяне не паварочваецца язык, а сказаць праўду я не хачу.* Быкаў. *Прызнацца, што ён не падрыхтаваў яшчэ хіміі і гісторыі, у Міці не павярнуўся язык.* Пальчэўскі. *Маўчаў і Хадаронак: не ведаў, што сказаць. Гаварыць пра тое, што бачыў яе мужа, язык не павярнуўся.* Леванові. *Люба дрэннага нам нічога не зрабіла дагэтуль, і ў мяне язык не павернецца сказаць ёй такія словы.* Васілевіч. *Сказаць, што не кіну яе... Стоп, стоп... Не, не павернецца язык...* Міська.

**ЯЗ`ЫК НЕ СЛ`УХАЕ (НЕ СЛ`УХАЕЦЦА)** *<каго>*; **ЯЗ`ЫК НЕ СЛ`УХАЎ (НЕ СЛ`УХАЎСЯ)** *<каго>. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. не мае рашучасці, ахвоты, саромеецца (сказаць, запытаць і пад.). **Сін**.: язык не паварочваецца *ў каго. Бываюць словы такія, што яна [Аўдоля] і не чула раней ніколі і выгаварыць іх — язык не слухае.* Крапіва. *Андрэй хацеў сказаць ёй на гэта што-небудзь ласкавае, але язык не слухаў.* Галавач. *Аляксандр у дзяцінстве колькі разоў намыкаўся сказаць гэтай добрай жанчыне, што абмывала і абшывала іх, «мама», але язык не слухаўся і гаварыў сваё: «цётка Ганна».* Грахоўскі.

*Як, ці, няўжо* **ЯЗ`ЫК ПАВАР`ОЧВАЕЦЦА (ПАВЯРН`УЎСЯ, ПАВ`ЕРНЕЦЦА)** *у каго. У безас. ужыв. Разм.* (Як, ці, няўжо) хапае рашучасці, смеласці, сумлення (сказаць, гаварыць, пытацца і пад.). — *Хіба з Барташэвічам нагуляла? — Як у цябе язык паварочваецца гэта казаць!* Лобан. *[Кароль:] Як ты асмеліўся, нягоднік, пракляты валацуга? Як у цябе язык павярнуўся?* В.Вольскі. *Гад, што казаў... Як і язык павярнуўся... Вы ж чулі!..* Савіцкі. *Едзь, Барыс Іосіфавіч, у абласное ўпраўленне меліярацыі, зацвярджай. Ды за работу. Наўрад ці павернецца ў каго язык сказаць хоць слова супраць.* Дуброўскі. *Дык для сябе стараецца Валянцін Паўлавіч ці для многіх? Дык ці павернецца ў каго язык папракнуць яго за тое, што ён робіць паслугу нейкім уплывовым людзям?* Радкевіч. *Няўжо ў каго язык павернецца, каб запярэчыць...* Макарэвіч.

**ЯЗ`ЫК ПА-ЗА ВУШ`АМІ (ПА-ЗА В`УШШУ) ХОДЗІЦЬ** *у каго. У безас. ужыв. Разм. Неадабр.* Хто-н. празмерна балбатлівы, гаворыць многа лішняга. **Сін**.: жаба на языку не спячэцца *ў каго*; рот <ніколі> не закрываецца *ў каго*; слабы на язык; язык без касцей *у каго*; язык доўгі *ў каго*; язык меле *чый,* язык каля вушэй матляецца *ў каго.* —

*Дык я ж толькі так, для прыкладу сказаў... — Дужа ўжо ў цябе язык па-за вушамі ходзіць.* Новікаў. *Я і гавару на яе: што табе сказаць? У цябе ж язык па-за вушшу ходзіць.* Янкоўскі. *[Ульяна:] Толькі і клёку [у масавіка-забаўніка], што язык па-за вушшу ходзіць.* Петрашкевіч.

**ЯЗЫК ПРАГЛЫНЕШ.** Гл. праглынеш.

**ЯЗ`ЫК ПРЫС`ОХ (ПРЫЛ`ІП) <ДА ЗУБ`ОЎ, ДА ПАДНЯБ`ЕННЯ>** *у каго, каму. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. раптоўна страціў здольнасць гаварыць (ад страху, здзіўлення і пад.). **Сін**.: цяля язык аджавала *каму*; язык адняўся *ў каго*; язык да зубоў прымёрз *у каго. Чыжэўскай па звычцы карцела пярэчыць, але язык прысох да зубоў.* Блакіт. *Мне хацелася крыкнуць: няпраўда! Але язык чамусьці прысох да паднябення. І я маўчаў.* Асіпенка. *Што, загаду не чытаў на сцяне? Мы тут ездзім, загады вам клеім, а вы сабе корміце тых, лечыце і не заяўляеце... Ну? Язык прысох?* Пташнікаў. *Зноў затрося Дамянік, з плеч на зямлю спала світка, і прыліп яму язык.* Колас.

**ЯЗ`ЫК РАЗВ`ЯЗВАЕЦЦА (РАЗВЯЗ`АЎСЯ)** *у каго, чый*; **ЯЗЫК`І РАЗВ`ЯЗВАЮЦЦА (РАЗВЯЗ`АЛІСЯ)** *у каго, чые. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. становіцца залішне балбатлівым. *Хворы думаў: «Пасля выпіўкі ў Кавалькевіча развяжацца язык. Ён сябе пакажа не толькі як аграном, але як чалавек..* Бядуля. *Тут і развязаўся ў Глушака язык — стаў выліваць усё, што паліла не адзін дзень...* Мележ. *Неўзабаве выпітае дало сябе знаць, і мой язык трошкі развязаўся.* Сабаленка. *Як толькі закураць з аднаго пачка незнаёмыя мужчыны, у іх адразу развязваюцца языкі.* Грахоўскі. *На выпіўку грошай не пашкадавалі — трэба было так аглушыць «падшэфных», каб у іх развязаліся языкі.* Новікаў.

**ЯЗ`ЫК СВЯРБ`ІЦЬ (СВЯРБ`ЕЎ)** *у каго, каму*; **ЯЗ`ЫК ЗАСВЯРБ`ІЦЬ (ЗАСВЯРБ`ЕЎ)** *у каго, каму. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. не можа стрымацца, каб не загаварыць, не сказаць што-н. **Сін**.: язык у роце не месціцца *ў каго. Ды што прыслухоўвацца да людскіх гутарак. Хай кажуць, каму язык свярбіць. Розныя ёсць людзі.* Гартны. *Алесю язык свярбеў, каб сказаць, што сам ён якраз з-пад таго Навагрудка, што там у іх і дагэтуль стаяць у ярах нямецкія бліндажы...* Брыль. *У чалавека свярбеў язык, той даваў яму волю.* Пташнікаў. *Мала што выдумаюць, калі язык засвярбіць!...* Мележ.

**ЯЗ`ЫК У Р`ОЦЕ НЕ М`ЕСЦІЦЦА** *ў каго. У безас. ужыв. Разм.* Хто-н. не можа стрымацца, каб не загаварыць, не расказаць пра што-н. **Сін**.: язык свярбіць *у каго, каму. Сядзе дзе-небудзь, вочы ў зямлю ўперыць, будзе глядзець сабе пад ногі цэлы дзень і маўчаць. А то разгаворлівы дужа стаў: язык у роце не месціцца.* Сіпакоў. *І няўжо праўда, што дзяцей такім чынам [цётка] прыдбала? Мусіць, маніць,*

*нагаворвае на сябе, язык у роце не месціцца. Гэта ж брыдка было б прызнацца каму ў такой распусце.* Клебановіч.

**ЯЗ`ЫК (ЯЗЫЧ`ОК) ЯК (ШТО) БР`ЫТВА.** *Разм.* **1**. *Часцей дзейн.* Здольнасць востра і дасціпна гаварыць. *І так сабой не асабліва відная — драбната. Паглядзець няма на што. І твар — худы, косткі на шчоках выпінаюць... Толькі і красы, што язык як брытва!..* Мележ. *Дзіўна, а падабаліся яму і грубаватасць яе, і язык як брытва, і смеласць...* Васілевіч.

**2**. *у каго. У безас. ужыв.* Хто-н. дасціпны, з'едлівы ў размове. **Сін**.: востры язык *у каго. Сустракацца з усёй брыгадай яму [Валянціну] не хацелася, асабліва з Ганнай Калеснікавай — у гэтай язык што брытва.* Б.Стральцоў. *— Яна пасіўная ў грамадскіх адносінах, — паспешліва адрапартавала Валя. — Ды і не так лёгка з ёй размаўляць. Ледзь што не так — на смех падыме. Язычок што брытва!* Іпатава.

**ЯК ЯЗЫК ПРАГЛЫНУЎ.** Гл. праглынуў.

*ЯЗЫКА* ● **ЗРЫВАЦЦА З ЯЗЫКА** *чыйго, у каго.* Гл. зрывацца.

**З ЯЗЫКА НЕ СПУСКАЦЬ** *каго, што.* Гл. спускаць.

**КРУЦІЦЦА НА КАНЦЫ ЯЗЫКА** *ў каго.* Гл. круціцца.

**НА КАНЦЫ ЯЗЫКА.** Гл. канцы.

**НЕ СХОДЗІЦЬ З ЯЗЫКА** *чыйго, у каго.* Гл. сходзіць.

**ПРОСІЦЦА З ЯЗЫКА** *ў каго, чыйго.* Гл. просіцца.

**САРВАЦЬ З ЯЗЫКА** *ў каго.* Гл. сарваць.

**ЧАСАННЕ ЯЗЫКА.** Гл. часанне.

*ЯЗЫКАМІ* ● **ПАМАЛОЦЬ ЯЗЫКАМІ.** Гл. памалоць.

**ПАМЯНЦІЦЬ ЯЗЫКАМІ.** Гл. памянціць.

*ЯЗЫКІ* ● **ЗЛ`ЫЯ ЯЗЫК`І.** *Адз. не ўжыв. Часцей дзейн. Разм. Неадабр.* Плеткары, паклёпнікі. *[Жлукта:] Злыя языкі гавораць, што вы заляцаецеся да мае жонкі.* Крапіва. *А яшчэ злыя языкі казалі, што за ўсе гэтыя гады не было такога, каб Хадоська падышла к якой маладзіцы, у каторай груднoе на руках.* Мележ.

**ПАДХОПЛІВАЦЬ НА ЯЗЫКІ** *каго, што.* Гл. падхопліваць.

**ПАРАСПУСКАЦЬ ЯЗЫКІ.** Гл. прапускаць.

**ПАЧАСАЦЬ ЯЗЫКІ.** Гл. пачасаць.

*ЯЗЫКОВАЕ* ● **ЯЗЫКОВАЕ МЛІВА.** Гл. мліва.

*ЯЗЫКОМ* ● **ВАРОЧАЦЬ ЯЗЫКОМ.** Гл. варочаць.

**МАЛОЦЬ ЯЗЫКОМ.** Гл. малоць.

**МЫЦЬ ЯЗЫКОМ** *каго, што.* Гл. мыць.

**МЯНЦІЦЬ ЯЗЫКОМ.** Гл. мянціць.

**ПАМАЛОЦЬ ЯЗЫКОМ.** Гл. памалоць.

**ПАМЯНЦІЦЬ ЯЗЫКОМ.** Гл. памянціць.

**ПАТРАПАЦЬ ЯЗЫКОМ.** Гл. патрапаць.
**ПАЧАСАЦЬ ЯЗЫКОМ.** Гл. пачасаць.
**ПЛЯСКАЦЬ ЯЗЫКОМ.** Гл. пляскаць.
**ТРАПАЦЬ ЯЗЫКОМ.** Гл. трапаць.
**УТЫКАЦЦА СА СВАІМ ЯЗЫКОМ.** Гл. утыкацца.
**ЯК КАРОВА ЯЗЫКОМ ЗЛІЗАЛА** *каго, што.* Гл. карова.

*ЯЗЫКУ* ● **ДАВАЦЬ ВОЛЮ ЯЗЫКУ.** Гл. даваць.
**ЖАБА НА ЯЗЫКУ НЕ СПЯЧЭЦЦА** *ў каго.* Гл. жаба.
**КРУЦІЦЦА НА ЯЗЫКУ** *ў каго, каго.* Гл. круціцца.

**НА ЯЗЫК`У** *ў каго. Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. ці абстр. прадмета. **1**. Гатова сказацца, быць вымаўленым кім-н. — *А ну вас к чорту! — ледзь не ляпнуў Хвядос мудрэйшага слова (ужо і на языку было).* Калюга. *Чуваць — стогне, ходзіць ходырам пад нагамі зямля. І ў кожнага на языку: «Што, што там, за лесам?..* Сачанка.

**2**. Пастаянна паўтараецца, абмяркоўваецца і пад. кім-н. **Сін**.: на вуснах *у каго, каго. [Караўкін:] Маё прозвішча — Караўкін. А сваё вы можаце не называць: яно ва ўсіх на языку.* Крапіва. — *Часта пытаюць, — кінуў на Рогава цікаўны, мяккі позірк Макараў, — калі пачнецца наступленне? — Ну, такое пытанне, мусіць, у кожнага калі не на языку, то ў галаве...* Мележ.

*ЯЗЫЦАХ* ● **ПРЫТЧА ВА ЯЗЫЦАХ.** Гл. прытча.

*ЯЗЫЧОК* ● **ВОСТРЫ ЯЗЫЧОК** *у каго.* Гл. язык.
**ЯЗЫЧОК ЯК БРЫТВА.** Гл. язык.

*ЯЙКА* ● **АД ЯЙКА АДЛІЦЬ.** Гл. адліць.
**ВЫЕДЗЕНАГА ЯЙКА** *не варта.* Гл. яйца.
**ВЫЕДЗЕНАЕ ЯЙКА.** Гл. яйцо.

**КАЛ`УМБАВА `ЯЙКА (ЯЙЦ`О).** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Кніжн.* Удалае рашэнне чаго-н., знойдзены выхад з цяжкага становішча. — *Па неправераных даных сёння ноччу забіта Настасся Вашчыла [супрацоўніца нямецкай разведкі]. — Гэта праўда? — Калумбава яйка... Нечаканы ўчынак шпега, якога ўчора Настасся Вашчыла на вуліцы стэкам спаласавала, выручыў нас, — тлумачыў Краеўскі. — Не трэба рук пэцкаць...* Гурскі. *Пазбегнуць жа [памылак] было проста — проста, як калумбава яйка: даць рукапіс на рэцэнзію гісторыкам Беларусі.* «ЛіМ».

*ЯЙКАМ* ● **ЯК КУРЫЦА З ЯЙКАМ.** Гл. курыца.

**ЯК (НІБ`Ы) З ВЕЛІК`ОДНЫМ `ЯЙКАМ** <u>цацкацца, няньчыцца.</u> *Акал. Разм. Неадабр.* Залішне многа і далікатна. *[Сымонка:] Вельмі ўжо ён цацкаецца з князем, нібы з велікодным яйкам!* В.Вольскі. *Васіль худы, як струк. «Цацкаецца Апулёня з ім, як з велікодным яйкам», – даводзілі мне Апулёніны суседкі, седзячы на прызбе.* Лобач.

*ЯЙЦА* ● <u>*Пачынаць (пачаць)*</u> **АД ЯЙЦ`А.** *Акал. Разм.* З самага пачатку. **Сін.**: ад печкі (печы); з азоў. *Я раскажу табе якую-небудзь займальную гісторыю... Напрыклад?.. Напрыклад, калі пачынаць ад яйца, паслухай, кім я марыў стаць у дзяцінстве.* Арлоў.

**АД ЯЙЦА АДЛІЦЬ.** Гл. адліць.

**В`ЫЕДЗЕНАГА ЯЙЦ`А (`ЯЙКА)** <u>*не варта (-ы).*</u> *Акал. Разм.* Зусім нічога (не варта, не заслугоўвае ўвагі што-н.). **Сін**.: ломанага граша *не варта. Што ж ад вас залежыць, урэшце, пан генерал? Ваша паліцыя? Яна не варта выедзенага яйца, ваша паліцыя.* Лынькоў. *[Вера Сымонаўна] таксама пагарачылася, зрабіла глупства — паскардзілася яму, старшыні сельсавета Івану Дарошку, на брата, Косціка... Канфлікт, не варты выедзенага яйка...* Сачанка. *Гэта заўчаснае пенсіянерства мімаволі робіць [Івана Васільевіча] дробязным, засмоктвае ў ціну быту, сямейных праблем, якія часам не варты выедзенага яйка.* Шамякін.

*ЯЙЦО* ● **В`ЫЕДЗЕНАЕ ЯЙЦ`О (`ЯЙКА).** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Разм.* Драбяза, што-н. не вартае ўвагі. *Больш за ўсё Кастусь баяўся, што Паўлік не прыйдзе на сход, бо ён яшчэ ўдзень сказаў, што дарэмна брыгадзір зацявае пустую гаварыльню вакол выедзенага яйца.* Гаўрылкін. *Такую дробязь вам не стане выпісваць бухгалтэрыя... Ды і ў мяне з-за вашага выедзенага яйка вунь колькі часу адрываецца дарэмна, а я ж кірую вялікай гаспадаркай!* Лазуркін.

**З-ПАД СУЧКІ ЯЙЦО ЎКРАДЗЕ.** Гл. украдзе.

**КАЛУМ БАВА ЯЙЦО.** Гл. яйка.

*ЯЙЦЫ* ● **НЕ Ў ЯЙЦЫ ПІШЧЫЦЬ.** Гл. пішчыць.

*ЯК* ● **А `ЯК ЖА!** *У знач. сцвярдж. часціцы, Разм.* Ага, так. **Сін**.: а нягож; дзіва што (у 1 знач.); чаму <ж> не; яшчэ як. — *Будзем прасіць, каб вы з скрыпкаю падышлі. — А як жа!* Чорны. — *Пэўна, Фрунзе ведаеш? — А як жа! Ён сярод ткачоў праводзіў работу. Цікавы чалавек!* Гурскі. — А *Жураўляны не чулі? — А як жа!.. І на кірмашы не раз быў у Жураўлянах.* Гроднеў.

**ВОСЬ <ЯНО> ЯК!** Гл. вось.

**ГОЛЫ ЯК БІЗУН.** Гл. голы.

**ГОЛ ЯК САКОЛ.** Гл. гол.

**НЕ ХТО ІНШЫ ЯК.** Гл. хто.

**НЕ ШТО ІНШАЕ ЯК.** Гл. што.

**НІ БОЛЬШ НІ МЕНШ <ЯК>.** Гл. больш.

**ПАКАЗАЦЬ ЯК БАРСУК <СВАІХ> ДЗЯЦЕЙ ГЛАДЗІЦЬ** *каму.* Гл. паказаць.

**ПАМІНАЙ ЯК ЗВАЛІ.** Гл. памінай.

**ПЯЧЫ ЯК БЛІНЫ** *што.* Гл. пячы.
**УСЁ АДНО ЯК.** Гл. усё.
**УСЁ РОЎНА ЯК.** Гл. усё.
**ХТО ЯК.** Гл. хто.
**ЯЗЫК ЯК БРЫТВА.** Гл. язык.
**ЯК АБЛУПЛЕНАГА.** Гл. аблупленага.
**ЯК АБУХ.** Гл. абух.
**ЯК АБУХОМ ПА ГАЛАВЕ СТУКНУЦЬ** *каго.* Гл. стукнуць.
**ЯК АВЕЧЫ ХВОСТ.** Гл. хвост.
**ЯК АГНЁМ АПЯКЛО** *каго.* Гл. апякло.
**ЯК АГНЮ.** Гл. агню.
**ЯК АДЗІН.** Гл. адзін.
**ЯК АДЗІН ЧАЛАВЕК.** Гл. чалавек.
**ЯК АД КАЗЛА МАЛАКА.** Гл. казла.
**ЯК АДНА МІНУТА.** Гл. мінута.
**ЯК АПАРАНЫ <КІПНЕМ>.** Гл. апараны.
**ЯК АПОШНЯЕ Ў ПЕЧ УСЫПАЎШЫ.** Гл. усыпаўшы.
**ЯК АРШЫН ПРАГЛЫНУЎ.** Гл. праглынуў.
**ЯК АРШЫН ПРАГЛЫНУЎШЫ.** Гл. праглынуўшы.
**ЯК АСІНА.** Гл. асіна.
**ЯК АСІНАВЫ ЛІСТ.** Гл. ліст.
**ЯК БАБЁР.** Гл. бабёр.
**ЯК БАРАН НА НОВЫЯ ВАРОТЫ.** Гл. баран.
**ЯК БАРАН У БІБЛІІ.** Гл. баран.
**ЯК БАЧ.** Гл. бач.
**ЯК БАЧЫШ.** Гл. бачыш.
**ЯК БЕЗ РУК** *без каго, без чаго.* Гл. рук.
**ЯК БОГА.** Гл. бога.
**ЯК БОГ ДАСЦЬ.** Гл. бог.
**ЯК БОГ НА ДУШУ ПАКЛАДЗЕ.** Гл. бог.
**ЯК БОГ СВЯТ.** Гл. бог.
**ЯК БОГ ЧАРАПАХУ.** Гл. бог.
**ЯК БОЖЫ ДЗЕНЬ.** Гл. дзень.
**ЯК БОСАМУ РАЗУЦЦА.** Гл. разуцца.
**ЯК БОТ <З ЛЕВАЙ НАГІ>.** Гл. бот.
**ЯК БУБЕН.** Гл. бубен.

**`ЯК БЫ НЕ Т`АК!** *Выкл. Разм.* Зусім не, гэтаму не бываць. Выказванне катэгарычнай нязгоды, адмаўлення, пярэчання. **Сін**.: нічога падобнага; няма дурных (у 1 знач.); скулу ў бок *каму*; трымай кішэнь шырэй; чорта з два (у 1 знач.); чорта лысага (у 1 знач.). *Вам, напэўна, не гаварылі, што не без майго ўдзелу вас апраўдалі.*

*Думаеце, самі адбіліся? Як бы не так! Матэрыялы супраць вас былі важкія.* Новікаў. *Заступаючы на пасаду старшыні, ён — відаць, вопытны дыпламат — паабяцаў, што будзе аднолькава справядлівы і аб'ектыўны да ўсіх. Як бы не так!* Сачанка. *Можа, Фурсевіч узяўся за розум і жыве цяпер толькі на зарплату? Як бы не так!* «Звязда».

**ЯК БЫ ТАМ НІ БЫЛО.** Гл. было.

**ЯК (БЫЦЦАМ) ЯЗЫК ПРАГЛЫНУЎ.** Гл. праглынуў.

**ЯК ВАВЁРКА Ў КОЛЕ.** Гл. вавёрка.

**ЯК ВАДОЙ ЗМЫЛА.** Гл. змыла.

**<ЯК> ВАДЫ Ў РОТ НАБРАЎ.** Гл. набраў.

**ЯК ВАДЫ Ў РОТ НАБРАЎШЫ.** Гл. набраўшы.

**ЯК ВАРАМ АБДАЛО** *каго.* Гл. абдало.

**ЯК ВЕТРАМ ЗДЗЬМУЛА.** Гл. здзьмула.

**ЯК ВІДАЦЬ.** Гл. відаць.

**ЯК ВОКА** *пoўны.* Гл. вока.

**ЯК ВОКАМ ЗГЛЕДЗЕЦЬ.** Гл. зглeдзeць.

**ЯК ВОКАМ КІНУЦЬ.** Гл. кінуць.

**ЯК ВОКА Ў ІЛБЕ.** Гл. вока.

**ЯК ВОКА Ў ІЛБЕ** *глядзець.* Гл. вока.

*Адзін* **ЯК ВОКА Ў ЛОБЕ.** Гл. вока.

**ЯК ВОЛ ДА КАРЭТЫ.** Гл. вол.

**ЯК ВОЛ ДОЎБНІ.** Гл. вол.

**ЯК ВОЎЧАЕ ВОКА.** Гл вока.

**ЯК ВОШ НА СТРУП.** Гл. вош.

**ЯК Г`А.** *Акал. Разм.* Адразу ж, вельмі хутка, імгненна (зрабіць што-н.). **Сін**.: у адзін мах; у адзін міг; у <адзін> момант; у <адну> мінуту; у імгненне вока; у міг вока; у момант вока; як бач; як бачыш (у 1 знач.); як вокам зглeдзeць (у 1 знач.); як слова сказаць; як стой. *Як у казцы, усё зрабілася адразу. Як «га» гатоў быў рай на зямлі.* Бядуля. — *Я збегаю як га! — Ты на ўсё як га!* Янкоўскі. *Тут пан як га ўстаў і пазнаў яго [дзеда].* «Жарты».

**ЯК ГАДЗІННІК.** Гл. гадзіннік.

**<ЯК> ГАРА З ПЛЕЧ <ЗВАЛІЛАСЯ>** *у каго, з чыіх.* Гл. гара.

**ЯК ГАРОХ АБ СЦЯНУ** *каму, для каго.* Гл. гарох.

**ЯК ГАРОХ АД СЦЯНЫ.** Гл. гарох.

**ЯК ГАРОХ ПРЫ ДАРОЗЕ.** Гл. гарох.

**ЯК ГОД.** Гл. год.

**ЯК ГОЛУБ.** Гл. голуб.

**ЯК ГОРКАЯ РЭДЗЬКА.** Гл. рэдзька.

**ЯК ГРАБЛІ.** Гл. граблі.

**ЯК ГРАЗІ** *каго, чаго.* Гл. гразі.

**ЯК ГРАЗЬ.** Гл. гразь.

**ЯК ГРОМ З ЯСНАГА НЕБА.** Гл. гром.

**ЯК ГУСІНЫ ПУП.** Гл. пуп.

**ЯК ГУСЬ З ПАРАСЁМ.** Гл. гусь.

**ЯК ГУСЬ НА БЛІСКАВІЦУ.** Гл. гусь.

**ЯК ГРЫБЫ <ПАСЛЯ ДАЖДЖУ>.** Гл. грыбы.

**ЯК ДВОЙЧЫ ДВА.** Гл. двойчы.

**ЯК ДЗВЕ КРОПЛІ ВАДЫ.** Гл. кроплі.

**ЯК ДЗІРКА Ў МОСЦЕ.** Гл. дзірка.

**ЯК ДЗЯДЗЬКА Ў ВІЛЬНІ.** Гл. дзядзька.

**ЯК ДОМА.** Гл. дома.

**ЯК ДРОЎ.** Гл. дроў.

**ЯК ДУЖ.** Гл. дуж.

**ЯК ДУНАЙ.** Гл. дунай.

**ЯК <ДУРАНЬ> З ПІСАНАЙ ТОРБАЙ.** Гл. дурань.

**ЯК ДУРАНЬ СА СТУПАЙ.** Гл. дурань.

**ЯК ДУРАНЬ СТУПУ.** Гл. дурань.

**ЯК ДУРНЫ НА ПАМІНКАХ** *есці* і пад. Гл. дурны.

**ЯК ДЫМ.** Гл. дым.

**ЯК ЁСЦЬ.** Гл. ёсць.

*Адзін* **ЯК ЁСЦЬ.** Гл. ёсць.

**ЯК ЖАБА ГРАЗІ.** Гл. жаба.

**ЯК ЖАРУ ЎХАПІЎШЫ.** Гл. ухапіўшы.

**`ЯК ЖА Т`АК.** *Выкл. Разм.* Вокліч здзіўлення, сумнення, недаўмення ў сувязі з якім-н. пытаннем ці сцвярджэннем. — *Скажы, ты яго любіш?.. — Я не ведаю, Стася... — Ну, як жа так — не ведаю...* Зарэцкі. *І ты не ўгаварыла?.. Як жа так...* Гарбук.

**ЯК ЗАБІТЫ.** Гл. забіты.

**ЯК ЗАБЛОЦКІ НА МЫЛЕ.** Гл. заблоцкі.

**ЯК ЗАВЕДЗЕНАЯ МАШЫНА.** Гл. машына.

**ЯК ЗАВЕДЗЕНЫ.** Гл. заведзены.

**ЯК ЗАВЯЗАЦЬ.** Гл. завязаць.

**ЯК ЗАЙЦУ СТОП-СІГНАЛ.** Гл. стоп.

**ЯК ЗА КАМЕННАЙ СЦЯНОЙ.** Гл. сцяной.

**ЯК ЗАКЛЯТЫ.** Гл. закляты.

**ЯК ЗАПАЛАК.** Гл. запалак.

**<ЯК> ЗАСЛОНА СПАЛА З ВАЧЭЙ** *у каго, чыіх.* Гл. заслона.

**ЯК ЗА СЯБЕ ЗАКІНУЦЬ** *што.* Гл. закінуць.

**ЯК З БОЧКІ.** Гл. бочкі.

**ЯК З ВЕЛІКОДНЫМ ЯЙКАМ.** Гл. яйкам.

**ЯК ЗВОН.** Гл. звон.

**ЯК З ВЯДРА.** Гл. вядра.
*Сказаў* **ЯК ЗВЯЗАЎ.** Гл. звязаў.
**ЯК З ГРАЗІ КУЛЯ.** Гл. куля.
**ЯК З ГУСАКА ВАДА** *з каго.* Гл. вада.
**ЯК З ГУСІ ВАДА** *з каго, каму.* Гл. вада.
**ЯК З КАРОВЫ КАЗА.** Гл. каза.
**ЯК З КРЫЖА ЗНЯТЫ.** Гл. зняты.
**ЯК З КУЛЯМЁТА** *смаліць, паліць.* Гл. кулямёта.
**ЯК З ЛАНЦУГА САРВАЎСЯ.** Гл. сарваўся.
**ЯК З ЛАНЦУГА САРВАЎШЫСЯ.** Гл. сарваўшыся.
**ЯК З ЛУБУ.** Гл. лубу.
**ЯК З МЕСЯЦА ЗВАЛІЎСЯ.** Гл. зваліўся.
**ЯК З МЯШКА.** Гл. мяшка.
**ЯК З НЕБА ЗВАЛІЎСЯ.** Гл. зваліўся.
**ЯК ЗНОЙДЗЕШ** *калі.* Гл. знойдзеш.
**ЯК З-ПАД ЗЯМЛІ ВЫРАС.** Гл. вырас.
**ЯК З ПЕРУНА.** Гл. перуна.
*Карысці* **ЯК З РАКУ СМАКУ.** Гл. смаку.
**ЯК З РОГА ДАСТАТКУ.** Гл. рога.
**ЯК З РУЖЖА.** Гл. ружжа.
**ЯК З РУКАВА.** Гл. рукава.
**ЯК ЗРЭНКУ ВОКА.** Гл. зрэнку.
**ЯК З РЭШАТА.** Гл. рэшата.
**ЯК ЗЯМЛЯ.** Гл. зямля.
**ЯК ІГОЛКА Ў СТОЗЕ <СЕНА>.** Гл. іголка.
**<ЯК> ІЕРЫХОНСКАЯ ТРУБА.** Гл. труба.
**ЯК <І> НЕ БЫЛО.** Гл. было.
**ЯК <І> НЕ ЛЫС.** Гл. лыс.
**ЯК ІРЖА ЖАЛЕЗА.** Гл. іржа.
**ЯК КАБЫЛЕ ВОЦАТУ.** Гл. кабыле.
**ЯК КАЖУЦЬ.** Гл. кажуць.
**ЯК КАЛУН.** Гл. калун.
**ЯК КАМЕНЬ З ПЛЯЧЭЙ ЗВАЛІЎСЯ** *ў каго.* Гл. камень.
**ЯК КАМЕНЬ З СЭРЦА ЗВАЛІЎСЯ** *ў каго.* Гл. камень.
**ЯК КАНЮ** *даць, уваліць.* Гл. каню.
**ЯК КАРОВА ЯЗЫКОМ ЗЛІЗАЛА** *каго, што.* Гл. карова.
**ЯК КАТУ.** Гл. кату.
**ЯК КАШАЛЬ ХВАРОБЕ.** Гл. кашаль.
**ЯК КОСТКА Ў ГОРЛЕ** *каму.* Гл. костка.
**ЯК КОТ З САБАКАМ.** Гл. кот.
**<ЯК> КОТ НАПЛАКАЎ.** Гл. кот.

**ЯК КОТ НА САЛА.** Гл. кот.
**ЯК КСЁНДЗ МАГДУСІ** *дагадзіць.* Гл. ксёндз.
**ЯК КУРЫЦА З ЯЙКАМ.** Гл. курыца.
**ЯК КУРЫЦА ЛАПАЙ <ГРАБЕ>.** Гл. курыца.
*Ляпнуць* **ЯК ЛАПЦЕМ ПА БАЛОЦЕ.** Гл. лапцем.
**ЯК ЛАПЦЕМ ПА ЦЫМБАЛАХ.** Гл. лапцем.
**ЯК ЛЕНІН НА БУРЖУАЗІЮ.** Гл. ленін.
**ЯК ЛЕТАШНІ СНЕГ.** Гл. снег.
**ЯК ЛЁДУ.** Гл. лёду.
**ЯК ЛІПКУ.** Гл. ліпку.
**ЯК ЛІХОЙ СКУЛЕ.** Гл. скуле.
**ЯК ЛУНЬ.** Гл. лунь.
**ЯК ЛЯДНІ.** Гл. магіла.
**ЯК ЛЯЛЬКА.** Гл. лялька.
**ЯК МАГА.** Гл. мага.
**ЯК МАГІЛА.** Гл. магіла.
**ЯК МАГНІТАМ.** Гл. магнітам.
**ЯК МАЕ БЫЦЬ.** Гл. мае.
**ЯК МАЙ ЗМАЯВАЎ** *каго, што.* Гл. май.
**ЯК МАКАЎ ЦВЕТ.** Гл. цвет.
**ЯК МАЛАНКАЙ СПАЛІЛА** *каго.* Гл. спаліла.
**ЯК МАМАЙ ПРАЙШОЎ** *дзе.* Гл. мамай.
**ЯК МАННЫ НЯБЕСНАЙ.** Гл. манны.
**ЯК МАРКА ПА ПЕКЛЕ.** Гл. марка.
**ЯК МАРКУ ПА ПЕКЛЕ.** Гл. марку.
*Цікавы* **ЯК МАРЦІН ДА КАВЫ.** Гл. марцін.
**ЯК МАСЛА.** Гл. масла.
**ЯК МАСЛАМ ПА ДУШЫ** *каму.* Гл маслам.
**ЯК МАЦІ НАРАДЗІЛА.** Гл. маці.
**ЯК МЕХ КАВАЛЬСКІ.** Гл. мех.
**ЯК МЁРТВАМУ КАДЗІЛА.** Гл. кадзіла.
**ЯК МЁРТВАМУ ПРЫПАРКІ.** Гл. прыпаркі.
**ЯК МІЛЕНЬКІ.** Гл. міленькі.
**ЯК МОКРАЕ ГАРЫЦЬ.** Гл. мокрае.
**ЯК МУХІ.** Гл. мухі.
**ЯК МУХІ НА МЁД.** Гл. мухі.
**ЯК МЫЛА З'ЕЎШЫ.** Гл. з'еўшы.
**ЯК МЫЛЬНАЯ БУРБАЛКА.** Гл. бурбалка.
**ЯК МЫШ НА КРУПЫ.** Гл. мыш.
**ЯК МЫШ ПАД ВЕНІКАМ.** Гл. мыш.
**ЯК НА АГНІ ГАРЫЦЬ** *на кім.* Гл. гарыць.

**ЯК НА БЯДУ.** Гл. бяду.
**ЯК НАБЯЖЫЦЬ.** Гл. набяжыць.
**ЯК НА ВУЛКАНЕ.** Гл. вулкане.
**ЯК НА <ГАРАЧЫМ> ВУГОЛЛІ.** Гл. вуголлі.
**ЯК НА ГРЭХ.** Гл. грэх.
**ЯК НА ДАЛОНІ.** Гл. далоні.
**ЯК НА ДЗЯДЫ.** Гл. дзяды.
**ЯК НА ДРАЖДЖАХ.** Гл. дражджах.
**ЯК НА ДУХУ.** Гл. духу.
**ЯК <НАЖОМ> АДРЭЗАЎ.** Гл. адрэзаў.
**ЯК НАЖОМ ПА СЭРЦЫ** *каму*. Гл. нажом.
**ЯК НА ЗАКАЗ.** Гл. заказ.
**ЯК НАЗАЎТРА ТРЭБА.** Гл. трэба.
**ЯК НА ЗЛОСЦЬ.** Гл. злосць.
**ЯК НА ІГОЛКАХ.** Гл. іголках.
**ЯК НА КАЛУ.** Гл. калу.
**ЯК НА КАМЕННУЮ СЦЯНУ.** Гл. сцяну.
**ЯК НА КАНІ ПРАЕХАЦЬ**. Гл. праехаць.
**ЯК НА КАРОВЕ СЯДЛО.** Гл. сядло.
**ЯК НА КРЫЛЛЯХ.** Гл. крыллях.
**ЯК НАЛЕЖЫЦЬ.** Гл. належыць.
**ЯК НА ЛІХА.** Гл. ліха.
**ЯК <НАНАВА> НА СВЕТ НАРАДЗІЎСЯ.** Гл. нарадзіўся.
**ЯК НАНЯТЫ.** Гл. наняты.
**ЯК НА ПАДБОР.** Гл. падбор.
**ЯК НА ПАЖАР.** Гл. пажар.
**ЯК НА ПАМІНКАХ.** Гл. памінках.
**ЯК НА ПЛОТ ВЕШАЦЬ.** Гл. вешаць.
**ЯК НА САБАКУ.** Гл. сабаку.
**ЯК НА СВІННІ НАБЭДРЫКІ** *сядзець*. Гл. набэдрыкі.
**ЯК НА СВІННІ ПРАЕХАЦЬ.** Гл. праехаць.
**ЯК НА СПОВЕДЗІ.** Гл. споведзі.
**ЯК НА СПРУЖЫНАХ.** Гл. спружынах.
**ЯК НА СТО КОНЕЙ СЕЎ.** Гл. сеў.
**ЯК НА ТАЛЕРЦЫ.** Гл. талерцы.
**ЯК НА ТОЕ.** Гл. тое.
**ЯК НА ТОЕ ЛІХА.** Гл. ліха.
**ЯК НА ЎБОЙ.** Гл. убой.
**ЯК НА ШЫЛЕ.** Гл. шыле.
**ЯК НЕБА АД ЗЯМЛІ.** Гл. неба.
**<ЯК> НЕБА І ЗЯМЛЯ.** Гл. неба.

**ЯК НЕДАРЭЗАНЫ.** Гл. недарэзаны.

**<ЯК> НЕ СВАІМІ НАГАМІ.** Гл. нагамі.

**ЯК НЕ СВОЙ.** Гл. свой.

**ЯК НЕ ТРЭБА ЛЕПШ.** Гл. трэба.

**ЯК НЕ Ў СЯБЕ.** Гл. сябе.

**ЯК НІ КАЖЫ.** Гл. кажы.

**ЯК НІ КРУЦІ.** Гл. круці.

**ЯК НІКОЛІ.** Гл. ніколі.

**ЯК НІТКА ЗА ІГОЛКАЙ.** Гл. нітка.

**ЯК НІ Ў ЧЫМ НЕ БЫВАЛА.** Гл. бывала.

**ЯК НІЧОГА <І> НЕ БЫЛО.** Гл. было.

**\`ЯК-НІ\`ЯК.** *Разм.* **1**. *Акал.* Нягледзячы ні на што. **Сін**.: што ні кажы; як бы там ні было; як ні круці. *Ну, дык расказвай — што? як? дзе быў? што рабіў? Бо як-ніяк, а ўжо трынаццаць гадоў прайшло, як мы разышліся ў розныя бакі.* Крапіва. *Відаць было, што ён не рад, што чужы чалавек зайшоў у хату: як-ніяк, а могуць пайсці на людзі яго хатнія справы.* Чорны. *І з ядою было цяпер лягчэй: як-ніяк, а ўлетку падняць можна ў лесе і грыб, і ягадніцу зварыць з чарніц, і цяцерчыны яйкі пабраць.* М.Капыловіч.

**2**. *Пераважна ў знач. пабочн. сл.* Усё ж такі. Ужыв. для выказвання ўдакладнення. *За плячыма засталося столькі мазольнага на чужой заакіянскай зямлі, што думкі, як-ніяк, цягнуцца назад.* Пестрак. *Наогул-то небяспечна [начаваць] у Цітка, могуць наскок зрабіць ды патрэсці, як-ніяк — сваякі.* Лобан.

**<ЯК> НОЖ У СЭРЦА** *каму, для каго.* Гл. нож.

**ЯК ОЙЧА НАШ.** Гл. ойча.

**ЯК ПАВЕТРА.** Гл. паветра.

**ЯК ПАД ЗЯМЛЁЙ.** Гл. зямлёй.

**ЯК ПАДКОШАНЫ.** Гл. падкошаны.

**ЯК ПАДМЯНІЛІ.** Гл. падмянілі.

**ЯК ПАДНЯЦЬ.** Гл. падняць.

**ЯК ПАДСМАЛЕНЫ.** Гл. падсмалены.

**ЯК ПА КАМАНДЗЕ.** Гл. камандзе.

**ЯК ПАЛАТНО.** Гл. палатно.

**ЯК ПАЛЕЦ.** Гл. палец.

**ЯК ПАЛЬЧАТКІ** *мяняць.* Гл. пальчаткі.

**ЯК ПА МАСЛЕ.** Гл. масле.

**ЯК ПА НОТАХ.** Гл. нотах.

**ЯК ПАПА КАРЛА** *рабіць* і пад. Гл. карла.

**ЯК ПА ПІСАНЫМ.** Гл. пісаным.

**ЯК ПЕНЬ** *глухі.* Гл. пень.

**ЯК ПЕНЬ** *дурны. Гл. пень.*
**ЯК ПЕРАД БОГАМ.** Гл. богам.
**ЯК ПЕРСТ** *адзін.* Гл. перст.
*Жыць* **ЯК ПЕСНЮ ПЕЦЬ.** Гл. пець.
**ЯК ПІЛІП З КАНАПЕЛЬ.** Гл. пiлiп.
**ЯК ПІЦЬ ДАЦЬ.** Гл. даць
**ЯК ПЛЮНУЦЬ.** Гл. плюнуць.
**ЯК ПРАВІЛА.** Гл. правiла.
**ЯК ПРАЗ СОН.** Гл. сон.
**ЯК ПУГАЙ ПА ВАДЗЕ** *каму.* Гл. пугай.
**ЯК ПШАНІЦУ ПРАДАЎШЫ.** Гл. прадаўшы.
**ЯК ПЫЛЬНЫМ МЯШКОМ УДАРАНЫ.** Гл. ударany.
**ЯК П'ЯНЫ ДА ПЛОТА.** Гл. п'яны.
**ЯК ПЯТАЕ КОЛА Ў ВОЗЕ.** Гл. кола.
**ЯК РАК <НА ГАРЫ> СВІСНЕ.** Гл. рак.
**ЯК РУБЛЁМ ПАДАРЫЎ.** Гл. падарыў.
**ЯК РУДАЯ МЫШ.** Гл. мыш.
**ЯК РУКОЙ ЗНЯЛО** *што.* Гл зняло.
**ЯК РЫБА.** Гл. рыба.
**ЯК РЫБА Ў ВАДЗЕ.** Гл. рыба.
**ЯК РЫБЕ ПАРАСОН.** Гл. парасон.
**ЯК РЭЗАНЫ.** Гл. рэзаны.
**ЯК РЭПУ ГРЫЗЦІ.** Гл. грызцi.
**ЯК РЭШАТА.** Гл. рэшата.
**ЯК САБАКА БЛОХ** *набраццa.* Гл. сабака.
*Дурны* **ЯК САБАКА ДА ГОДУ.** Гл. сабака.
**ЯК САБАКА ПАЛКУ.** Гл. сабака.
**ЯК САБАКІ РВУЦЬ** *што.* Гл. сабакi.
**ЯК САБАК НЯРЭЗАНЫХ** *каго.* Гл. сабак.
**ЯК САБАКУ МУХА** *для каго, каму.* Гл. муха.
**ЯК САБАКУ ПЯТАЯ НАГА.** Гл. нага.
*Брэша* **ЯК САВЕЦКАЕ РАДЫЁ.** Гл. радыё.
*Дурны* **ЯК САЛА БЕЗ ХЛЕБА.** Гл. сала.
**<ЯК> САМ НЕ СВОЙ.** Гл. сам.
**ЯК СВАЕ ВУШЫ.** Гл. вушы.
**ЯК СВАЕ ПЯЦЬ ПАЛЬЦАЎ.** Гл. пальцаў.
**ЯК <СВАЁ> ВОКА** *глядзець* і пад. Гл. вока.
**ЯК СВАІХ ВУШЭЙ.** Гл. вушэй.
**ЯК СВЕТ.** Гл. свет.
**ЯК СВЕТ СВЕТАМ.** Гл. свет.
**ЯК СВЕТ СТАІЦЬ.** Гл. свет.

**ЯК СВЕЧКА.** Гл. свечка.
**ЯК СВІННІ СЯДЛО.** Гл. сядло.
**ЯК СВІННЯ.** Гл. свіння.
**ЯК СВІННЯ Ў АПЕЛЬСІНАХ.** Гл. свіння.
**ЯК СВЯТЫ <ТУРЭЦКІ>.** Гл. святы.
**ЯК СЕЛЯДЦОЎ У БОЧЦЫ.** Гл. селядцоў.
**ЯК СЕРАДА НА ПЯТНІЦУ.** Гл. серада.
**ЯК СЛЕД.** Гл. след.
**ЯК СІДАРАВУ КАЗУ.** Гл. казу.
**ЯК СКАЗАЦЬ.** Гл. сказаць.
**ЯК СКРОЗЬ ЗЯМЛЮ ПРАВАЛІЎСЯ.** Гл. праваліўся.
**ЯК СКУЛА** *<для каго>*. Гл. скула.
**ЯК СКУРАТ НА АГНІ.** Гл. скурат.
**ЯК СЛАНУ ШРАЦІНА.** Гл. шраціна.
**ЯК СЛОВА.** Гл. слова.
**ЯК СЛОВА СКАЗАЦЬ.** Гл. слова.
**ЯК СЛЯПЫ ДА ПЛОТА.** Гл. сляпы.
**ЯК СЛЯПЫ ПЛОТА** *трымацца.* Гл. сляпы.
**ЯК СМАЛА.** Гл. смала.
**ЯК СМЕРЦЬ.** Гл. смерць.
**ЯК СНЕГ НА ГАЛАВУ.** Гл. снег.
**ЯК СНОП.** Гл. сноп.
**ЯК СОННАЯ МУХА.** Гл. муха.
**ЯК СОРА КАЗАЛА.** Гл. сора.
**ЯК СТАІЦЬ.** Гл. стаіць.
**ЯК СТАРОЙ БАБЕ СЕСЦІ.** Гл. сесці.
**ЯК СТАРЭЦКАЯ ПУГА.** Гл. пуга.
**ЯК СТОЙ.** Гл. стой.
**ЯК СЦЯНА.** Гл. сцяна.
**ЯК СЫР У МАСЛЕ КУПАЦЦА.** Гл. купацца.
**ЯК <СЯКЕРАЙ> АДСЕК.** Гл. адсек.
**ЯК ТАБЛІЦУ МНОЖАННЯ** *ведаць* і пад. Гл. табліцу.
**ЯК ТАКІ.** Гл. такі.
**ЯК ТАПЕЛЕЦ ЗА САЛОМІНКУ.** Гл. тапелец.
**ЯК ТОЙ КАЗАЎ.** Гл. той.
**ЯК ТРЫ ГРОШЫ ДАЎ.** Гл. даў.
**ЯК ТУТ <І> БЫЎ.** Гл. быў.
**ЯК У АПТЭЦЫ.** Гл. аптэцы.
**ЯК У БОГА ЗА ДЗВЯРЫМА.** Гл. бога.
**ЯК У БОГА ЗА ПАЗУХАЙ.** Гл. бога.
**ЯК У БОГА ЗА ПЛЯЧЫМА.** Гл. бога.

**ЯК У БОЧКУ.** Гл. бочку.
**ЯК У БУБЕН БІЦЬ.** Гл. біць.
**ЯК У ВАДУ АПУШЧАНЫ.** Гл. апушчаны.
**ЯК У ВАДУ ГЛЯДЗЕЎ.** Гл. глядзеў.
**ЯК У ВАДУ КАНУЎ.** Гл. кануў.
**ЯК У ВАДУ ЎПАЎ.** Гл. упаў.
**ЯК У ВУХУ.** Гл. вуху.
**ЯК У ГАРШКУ.** Гл. гаршку.
**ЯК УДЖАЛЕНЫ.** Гл. уджалены.
**ЯК У ЗВАНЫ ЗВАНІЦЬ.** Гл. званіць.
**ЯК У КАТЛЕ.** Гл. гаршку.
**ЯК УКОПАНЫ.** Гл. укопаны.
**ЯК У КРОПЛІ ВАДЫ.** Гл. кроплі.
**ЯК У ЛЕСЕ.** Гл. лесе.
**ЯК УЛІТЫ.** Гл. уліты.
**ЯК У МОРЫ КАРАБЛІ** *разысціся* і пад. Гл. караблі.
**ЯК У ПОЛІ ВЕЦЕР.** Гл. вецер.
**ЯК У ПРОРВУ.** Гл. прорву.
**ЯК У СНЕ.** Гл. сне.
**ЯК У СУК УЛЯПІЎ.** Гл. уляпіў.
**ЯК У ТУМАНЕ.** Гл. тумане.
**ЯК У ШАЎКУ.** Гл. шаўку.
**ЯК УЮН НА <ГАРАЧАЙ> ПАТЭЛЬНІ.** Гл. уюн.
**ЯК ФЕНІКС З ПОПЕЛУ.** Гл фенікс.
**ЯК ХАЛОДНЫ САМАВАР.** Гл. самавар.
**ЯК ХТО ПАДМЯНІЎ** *каго.* Гл. хто.
**ЯК ЦАРКОЎНАЯ МЫШ.** Гл. мыш.
**ЯК ЦЕНЬ.** Гл. цень.
**ЯК ЦЫГАН КОНЕЙ** *мяняць.* Гл. цыган.
**ЯК ЧАРАПАХА.** Гл. чарапаха.
**ЯК <ЧОРНЫ> ВОЛ.** Гл. вол.
**ЯК ЧОРТ АД ЛАДАНУ.** Гл. чорт.
**<ЯК> ЧОРТАМ ПАДШЫТЫ.** Гл. падшыты.
**ЯК ЧОРТ ГАРОХ МАЛАЦІЎ** *на чым.* Гл. чорт.
**ЯК ЧОРТ З ТАБАКЕРКІ.** Гл. чорт.
**ЯК ЧОРТ КРЫЖА.** Гл. чорт.
**ЯК ЧОРТ ЛАДАНУ.** Гл. чорт.
**ЯК ЧОРТ ПАНЁС** *каго, што.* Гл. чорт.
**ЯК ЧОРТ УССЕЎ** *на каго.* Гл. чорт.
**ЯК ШВЕД ПАД ПАЛТАВАЙ.** Гл. швед.
**ЯК ШКЛЯНКА.** Гл. шклянка.

**ЯК ШТЫК.** Гл. штык.
**ЯК ШЧЫГРЫНАВАЯ СКУРА.** Гл. скура.
**ЯК ШЫЛА З МЯШКА** *вылазіць.* Гл. шыла.
**ЯК ШЫЛА Ў МЯШКУ.** Гл. шыла.
**ЯК ЯЕЧКА.** Гл. яечка.
**ЯК ЯЗЫК ПРАГЛЫНУЎ.** Гл. праглынуў.
**ЯШЧЭ ЯК.** Гл. яшчэ.

*ЯКАГА* ● **НІ З ЧАГО НІ З ЯКАГА.** Гл. чаго.

*ЯКАР* ● **КІДАЦЬ ЯКАР** *дзе.* Гл. кідаць.
**`ЯКАР ЗБАВ`ЕННЯ (РАТ`УНКУ).** *Мн. не ўжыв. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам.* Апошні сродак, апошняя надзея. — У *выпіўках заўсёды бываюць і сваркі, і бойкі. Я быў п'яны і нічога не помню, — як за якар збавення ўхапіўся Сайка за п'янства.* Колас.

*ЯКАРА* ● **ЗНІМАЦЦА З ЯКАРА.** Гл. знімацца.

*ЯКАСЦІ* ● **У `ЯКАСЦІ** *каго, чаго. У знач. злучніка. Функц. не зам.* Як хто-н. ці што-н. **Сін**.: у выглядзе *чаго. [Наташа:] Я прыйшла, каб прапанаваць вам сябе. [Дабрыян:] Гэта як жа разумець? У якасці аб'екта для доследаў? [Наташа:] У якасці вечнага спадарожніка.* Крапіва. У *дні, калі адбываюцца прэс-канферэнцыі і розныя прэм'еры, дзе мне неабходна прысутнічаць у якасці тэатральнага крытыка, за маім туалетам сочаць жонка і дачка.* Кацюшэнка. *Містэр Лі ўзначальвае ў асацыяцыі аддзел міжнародных зносін, а цяпер прыстаўлены да нас у якасці гіда.* Пашкоў.

*ЯКАЯ* ● **ЯКАЯ БУРА НЯСЕ** *каго.* Гл. бура.
**ЯКАЯ КОШКА ПРАБЕГЛА** *паміж кім.* Гл. кошка.
**ЯКАЯ МУХА ЎКУСІЛА** *каго.* Гл. муха.
**ЯКАЯ НЯЧЫСТАЯ СІЛА.** Гл. сіла.
**ЯКАЯ ТРАСЦА.** Гл. трасца.
**ЯКАЯ ХАЛЕРА.** Гл. халера.

*ЯКІ* ● **НА ЯКІ ЛЯД** *каму хто, што.* Гл. ляд.
**НА ЯКІ ХРЭН.** Гл. хрэн.
**НА ЯКІ ЧОРТ.** Гл. чорт.
**НЕ БОГ ВЕДАЕ ЯКІ.** Гл. бог.
**ЯКІ ВЕЦЕР ЗАГНАЎ** *каго куды.* Гл. вецер.
**ЯКІ НЯЧЫСЦІК.** Гл. нячысцік.
**ЯКІ <ТАМ> ЧОРТ.** Гл. чорт.
**ЯКІ ЧОРТ.** Гл. чорт.
**ЯКІ ЧОРТ ЗАНЁС** *каго куды.* Гл. чорт.

*ЯКІМ* ● **НЕ ВЕДАЦЬ НА ЯКІМ СВЕЦЕ ЗНАХОДЗІЦЦА.** Гл. ведаць.
**НІ Ў ЯКІМ РАЗЕ.** Гл. разе.
**СЕКЧЫ СУК НА ЯКІМ СЯДЗІШ.** Гл. секчы.

**ЯКІМ ВЕТРАМ <ЗАНЕСЛА>** *каго куды.* Гл. занесла.

*ЯКІМІ* ● **З ЯКІМІ ВАЧАМІ ЗАЯВІЦЦА** *да каго, куды.* Гл. заявіцца.

**ЯКІМІ ВАЧАМІ ГЛЯДЗЕЦЬ** *на каго.* Гл глядзець.

*ЯКІЯ* ● **НЕ ЛЕЗЕ НІ Ў ЯКІЯ ВАРОТЫ.** Гл. лезе.

**НІ ЗА ЯКІЯ ГРОШЫ.** Гл. грошы.

*ЯКОГА* ● **НА ЯКОГА ЧОРТА.** Гл. чорта.

**ЯКОГА ЛІХА.** Гл. ліха.

**ЯКОГА РАЖНА.** Гл. ражна.

**ЯКОГА ХРЭНА.** Гл. хрэна.

**ЯКОГА ЧОРТА.** Гл. чорта.

*ЯКОЕ* ● **НА ЯКОЕ ЛІХА.** Гл. ліха.

*Калі* **ШТО ЯКОЕ.** Гл. што.

**ЯКОЕ ЛІХА.** Гл. ліха.

**ЯКОЕ ЛІХА НОСІЦЬ** *каго дзе.* Гл. ліха.

**ЯКОЕ ЛІХА НЯСЕ** *каго куды.* Гл. ліха.

*ЯКОЙ* ● **З ЯКОЙ ЛАСКІ.** Гл. ласкі.

**НІ ПРЫ ЯКОЙ ПАГОДЗЕ.** Гл. пагодзе.

*ЯКОМУ* ● **ЯКОМУ БОГУ МАЛІЦЦА.** Гл. маліцца.

*ЯКУЮ* ● **НА ЯКУЮ ТРАСЦУ.** Гл. трасцу.

**НА ЯКУЮ ХАЛЕРУ.** Гл. халеру.

**НІ Ў ЯК`УЮ.** *Вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Ніяк не згаджаецца, рашуча пярэчыць. **Сін**.: ні ў дугу. *Коля хацеў прадаць гаспадарку і пераехаць у горад — ён жа шафёр, знайшоў там работу, а стары ні ў якую...* Кудравец. *Каня я ў старшыні выкленчыў. А брыгадзір — ого! Заўпарціўся і — ні ў якую!* Калодзежны.

*ЯЛОВАЯ* ● **ГАЛАВА ЯЛОВАЯ.** Гл. галава.

*ЯМІНУ* ● **КАПАЦЬ ЯМІНУ** *каму, чаму.* Гл. капаць.

*ЯМУ* ● **КАПАЦЬ ЯМУ** *каму, пад каго, для каго.* Гл. капаць.

**КАПАЦЬ ЯМУ** *каму, чаму.* Гл. капаць.

**ЯМУ ЗАСКВАРЫЦЬ.** Гл. засквaрыць.

*ЯНА* ● **А ЎС`Ё Ж ТАК`І ЯН`А Р`УХАЕЦЦА!** *Выкл. Функц. не зам.* Вокліч цвёрдай упэўненасці ў слушнасці свайго выказвання. *Не будзе нам страшны гэты паганы над намі торг нашых нязваных і няслаких апекуноў. Ужо цяпер мы можам смела сказаць ім...: «А ўсё ж такі яна рухаецца!», г.зн. а ўсё ж такі мы жывём і будзем жыць!* Купала.

*ЯНО* ● **<ВОСЬ> ТО-ТА І ЯНО!** Гл. вось.

**ВОСЬ <ЯНО> ШТО!** Гл. вось.

**ВОСЬ <ЯНО> ЯК!** Гл. вось.

**ТАК ТО <ЯНО> ТАК.** Гл. так.

**ТАК <ЯНО> І ЁСЦЬ.** Гл. так.

**ЯН`О ТО Т`АК.** *У знач. першай часткі скл.-злуч. ск. Разм.* Усё гэта

правільна (але...). Гаворыцца ў адказ на словы суразмоўніка. **Сін**.: так то <яно> так. — А *на кпіны вы не зважайце. Не ўсе ж у войску такія, як... Задарожны. — Яно то так, але...* Быкаў. — *Ну што мне немцы зробяць?.. — Яно то так, але ж... Кожны чалавек думае, як лепей. А тым часам...* Навуменка. — *Людзі занятыя працай, не тое што мы з табою — пад'еў ды на печ... — Яно то так, — згадзіўся Сцяпан і задумаўся.* Пянкрат.

*ЯНУС* ● **ДВУХАБЛ`ІЧНЫ `ЯНУС.** *Часцей у адз. У ролі розных чл. ск. Кніжн. Неадабр.* Крывадушны чалавек. **Сін**.: воўк у авечай шкуры. *Двухаблічны Янус [Вігель] адно гаварыў людзям у вочы, зусім іншае пісаў пра гэтых людзей у сваіх даносах і лістах.* Сачанка. *Мне не хацелася б, каб Серафім Іванавіч выглядаў двурушнікам, гэткім двухаблічным Янусам.* Асіпенка.

*ЯРЛЫК* ● **ПРЫКЛЕЙВАЦЬ ЯРЛЫК** *<каму, на каго, на што>.* Гл. прыклейваць.

**ПРЫШЫВАЦЬ ЯРЛЫК** *каму.* Гл. прышываць.

*ЯРЛЫКІ* ● **ВЕШАЦЬ ЯРЛЫКІ** *<на каго, на што>.* Гл. вешаць.

*ЯРЛЫКОЎ* ● **НАВЕШВАННЕ ЯРЛЫКОЎ.** Гл. навешванне.

**ПРЫШЫВАННЕ ЯРЛЫКОЎ.** Гл. прышыванне.

*ЯРМО* ● **ЗАПРАГАЦЬ У ЯРМО** *каго.* Гл. запрагаць.

**НАДЗЯВАЦЬ ЯРМО** *на каго.* Гл. надзяваць.

**НАДЗЯВАЦЬ ЯРМО НА ШЫЮ** *каму, каго.* Гл. надзяваць.

**СКІДАЦЬ <З ШЫІ> ЯРМО.** Гл. скідаць.

**ЦЯГНУЦЬ ЯРМО** *<каго, якое>.* Гл. цягнуць.

*ЯРЭМЦА* ● **ЦЯГНУЦЬ ЯРЭМЦА** *<каго, якое>.* Гл. цягнуць.

*ЯСНАГА* ● **ЯК ГРОМ З ЯСНАГА НЕБА.** Гл. гром.

**ЯСНЕЙ ЯСНАГА.** Гл. ясней.

*ЯСНАЯ* ● **ХАЛЕРА ЯСНАЯ.** Гл. халера.

*ЯСНЕЙ* ● **ЯСН`ЕЙ `ЯСНАГА.** *У знач. вык. Разм.* Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета (становішча, справа, усё і пад.). Цалкам зразумела, зусім відавочна. *Тым часам прыйшоў ліст ад мужа, і там была картка ад мае сястры, дзе яна пісала, што Юра ў той жа школе, што й Ларыса... Ясней яснага, я так і абмякла, але мой муж гэтага не прыкмеціў і думаў, што Юра сапраўды вучыцца...* Генюш. *Мяняюць рэдактараў часопісаў. Нашто гэта робіцца – ясней яснага.* Гілевіч. *А ўваччу было сціплае шэрае надмагілле.., на якое ён нечспадзявана натрапіў там, на кладах. І пра што цяпер было пытацца? Усё было ясней яснага.* Маеўская. *Ну ясней жа яснага гаворым: мы, беларусы, нічога большага не хочам, апрача таго, што ўжо маюць усе славянскія народы.* «Дзеяслоў».

*ЯЦЬ* ● **НА `ЯЦЬ.** *Праст. Адабр.* **1**. *Акал.* Вельмі добра, цудоўна (рабіць што-н.). **Сін**.: будзь-будзь (у 1 знач.); будзь здароў (у 1 знач.); дай бог (у 1 знач.); дай бог кожнаму (у 2 знач.); дзякуй богу (у 1 знач.); за маё-маё (у 1 знач.); за маліну (у 2 знач.); з бляскам <у 1 знач.); кум каралю <і сват міністру> (у 3 знач.); люба-дорага; на дзіва (у 2 знач.); на поўнае вока; на пяць з плюсам; на славу (у 1 знач.); на ўсе сто (у 2 знач.); разлюлі-маліна (у 2 знач.); слава богу (у 1 знач.); хвала богу (у 1 знач.); хоць куды (у 2 знач.); што трэба (у 1 знач.); як не трэба лепш. *Сваю рэзідэнцыю Зюмель абставіў, як кажуць, на яць, каб вораг дрыжаў і не думаў назад адабранае ўзяць.* Колас. — *Ну, як жа, хлопцы, рэйд? Усё ў парадку, Міхась? — На яць! А то што ж бы мы за гаспадары з табою былі?* Скрыган.

**2**. *Вык.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы, канкр. ці абстр. прадмета. Вельмі добры, цудоўны. **Сін**.: адным словам і без сучка і <без> задзірынкі (у 2 знач.); будзь-будзь (у 2 знач.); будзь здароў (у 4 знач.); дай бог (у 2 знач.); дай бог кожнаму (у 1 знач.); дзякуй богу (у 2 знач.); за маё-маё (у 2 знач.); за маліну (у 3 знач.); з бляскам (у 2 знач.); кругом сто дваццаць; на славу (у 2 знач.); на ўсе рукі; на ўсе сто (у 3 знач.); па крайняй меры (у 2 знач.); пальчыкі абліжаш (у 2 знач.); пашукаць такога; першай гільдыі (у 1 знач.); першай рукі (у 1 знач.); першы клас; першы сорт; разлюлі-маліна (у 1 знач.); рэдкай рукі; слава богу (у 2 знач.); хоць куды (у 1 знач.); хоць на выстаўку <вязі>; што трэба (у 2 знач.); як яечка. *Мотуза пакінь: з яго камсамолец будзе на яць.* Калюга. — *Нешта яно пакуль што... — Вядома, не ўсё ў нас, як кажуць, на яць.* Крапіва.

*ЯШЧЭ* ● **ВОСЬ ЯШЧЭ!** Гл. вось.

**ГЭТАГА ЯШЧЭ НЕ ХАПАЛА!** Гл. хапала.

**ЁСЦЬ ЯШЧЭ ПОРАХ У ПАРАХАЎНІЦАХ** *у каго.* Гл. порах.

**ЯШЧЭ ТОЛЬКІ НЕ ХАПАЛА** *каго, чаго.* Гл. хапала.

**ЯШЧЭ ЧАГО НЕ ХАПАЛА.** Гл. хапала.

**<ЯШЧЭ> ЧЭРЦІ НА КУЛАЧКІ НЕ ВЫХОДЗІЛІ.** Гл. чэрці.

**ЯШЧ`Э `ЯК!** *У знач. сцвярдж. часціцы. Разм.* Вядома; няма чаго сумнявацца. **Сін**.: а нягож; а як жа; дзіва што (у 1 знач.); чаму <ж> не. *Вадзім уяўляў штосьці іншае, але калі Мая запыталася, ці задаволены ён, дык адказаў, не задумваючыся: — Яшчэ як.* Асіпенка. — *Праўда, прыгожа? — Яна [Галя] павярнула галаву да Русіновіча. — Яшчэ як!* Дамашэвіч. — *Як там наш Алег Кірэевіч? Апраўдвае нашы надзеі? —Яшчэ як!..* Мяжэвіч.